БЕЛАРУСКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ

# АРХЕАЛОГІЯ І НУМІЗМАТЫКА БЕЛАРУСІ

ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ



МІНСК
«БЕЛАРУСКАЯ
ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ»
ІМЯ ПЕТРУСЯ БРОЎКІ
1993

ББК 63.4(2Б)я2
А 87

**НАВУКОВЫЯ КАНСУЛЬТАНТЫ:**

У. У. БАГАМОЛЬНІКАЎ,
У. ДЗ. БУДЗЬКО,
В. С. ВЯРГЕЙ,
М. Ф. ГУРЫН,
А. А. ЕГАРЭЙЧАНКА,
В. Ф. КАПЫЦІН,
Т. М. КАРОБУШКІНА,
Г. А. КАХАНОЎСКІ,
У. П. КСЯНДЗОЎ,
А. А. МАКУШНІКАЎ,
Л. Д. ПОБАЛЬ,
М. М. ЧАРНЯЎСКІ.

А $\frac{0504000000-010}{М\ 318(03)-93}$ 3-93

ISBN 5-85700-077-7

## АД РЭДАКЦЫЙНАЙ КАЛЕГІІ

Энцыклапедыя «Археалогія і нумізматыка Беларусі» мае на мэце пазнаёміць чытача з найбагацейшымі археалагічна-нумізматычнымі скарбамі і адкрыццямі вучоных у гэтай галіне за апошнія 250 гадоў. Фактычна ў гэтым выданні паказваецца той асноўны трывалы падмурак, на якім базіруецца і ў значнай ступені развіваецца ўся 1000-гадовая гісторыя беларускага народа.

Выданне адкрываюць два ўступныя нарысы па гісторыі развіцця археалогіі і нумізматыкі на Беларусі. Яны знаёмяць як з помнікамі мінуўшчыны, так і з даследчыкамі, што руплів працавалі над разгадкай шматлікіх таямніц сівых стагоддзяў. У артыкулах па археалогіі асвятляюцца ўсе археалагічныя культуры, якія існавалі на тэрыторыі Беларусі, усе тыпы археалагічных помнікаў: стаянкі і паселішчы каменнага і бронзавага вякоў, гарадзішчы, селішчы жалезнага веку, могільнікі, язычніцкія капішчы, а таксама помнікі архітэктуры ранняга сярэднявечча (мураваныя храмы, замкі, палацы), асобныя катэгорыі і тыпы археалагічных знаходак.

Шмат увагі ў выданні аддадзена рэчам матэрыяльнай культуры — прыладам працы, прадметам узбраення і інш., а таксама унікальным творам першабытнага мастацтва. Дзякуючы навуковым пошукам і адкрыццям, чытачы даведаюцца пра асновы духоўнага жыцця і светаўспрымання першабытнага і сярэдневяковага чалавека, змогуць пазнаёміцца з разнастайным інструментарыем рамеснікаў, што мелі справу з дрэвам, глінай, каменем і металамі, ацаніць прыгажосць ювелірных вырабаў розных эпох, дасканаласць жаночага і мужчынскага ўбрання і абутку гараджан і сялян. Чытачы знойдуць інфармацыю і пра заняткі нашых продкаў земляробствам, жывёлагадоўляй і рознымі промысламі; дзякуючы рэканструкцыям змогуць уявіць сабе выгляд жылых і гаспадарчых пабудоў ад прымітыўных буданоў першабытнага чалавека да пышных палацаў сярэднявечча, прыгожых храмаў і замкаў.

Археалагічныя даследаванні даюць магчымасць пазнаёміцца з узорамі глінянага і драўлянага посуду, дахоўкі, кафлі і інш., даведацца пра культуру і пісьменнасць сваіх продкаў ранняга сярэднявечча, асабліва гараджан, якія ў большасці сваёй умелі пісаць, чытаць і лічыць.

Аматары-нумізматы і баністы знойдуць грунтоўную інфармацыю па ўсіх пытаннях манетнай справы. У гэтым выданні ўпершыню вельмі падрабязна даюцца звесткі пра манетныя сістэмы і асобныя манеты, што абарачаліся на землях Беларусі. На ілюстрацыях манеты даюцца ў натуральную велічыню.

Змяшчаюцца біяграфічныя артыкулы пра вучоных-археолагаў і нумізматаў, якія займаліся даследаваннямі на тэрыторыі Беларусі. Усяго ў выданні змешчана 2384 артыкулы, з іх 419 па нумізматыцы. Выданне багата ілюстравана каляровымі і чорна-белымі здымкамі, планамі і схемамі помнікаў.

Рукапіс быў падрыхтаваны да друку ў пачатку 1991 г., таму па тэхнічных прычынах перайменаванні і рэарганізацыі, праведзеныя ў 1991—92 г., улічаны толькі ў асобных выпадках.

Энцыклапедыя «Археалогія і

нумізматыка Беларусі» з'яўляецца калектыўнай працай. У яе стварэнні прымалі ўдзел вядучыя беларускія вучоныя-археалагі і нумізматы, гісторыкі, краязнаўцы, мастацтвазнаўцы і інш. Выданне разлічана на выкладчыкаў і студэнтаў гуманітарных факультэтаў ВНУ, настаўнікаў сярэдніх школ і ўсіх, хто цікавіцца далёкім мінулым нашай Бацькаўшчыны.

## АСНОЎНЫЯ СКАРАЧЭННІ

абл.— абласны
адм.— адміністрацыйны
АН — Акадэмія навук
арт.— артыкул
археал.— археалагічны
архіт.— архітэктурны
асн.— асноўны
б.— былы
б. ч.— большая частка
БДУ — Беларускі дзяржаўны універсітэт
бел.— беларускі
буд.— будаўнічы
бурж.— буржуазны
в.— вёска (пры назве)
ВКЛ — Вялікае княства Літоўскае
ВНУ — вышэйшая навучальная ўстанова
вобл.— вобласць (пры назве)
воз.— возера (пры назве)
в-аў — востраў (пры назве)
выш.— вышыня (пры лічбе)
вял.— вялікі
Вял. кн. Літоўскае — Вялікае княства Літоўскае
г.— горад (пры назве); гады
газ.— газета (пры назве)
гал.— галоўны
гандл.— гандлёвы
гар.— гарадскі
гасп.— гаспадарчы
геам.— геаметрычны
гіст.— гістарычны
гл.— глядзі
глыб.— глыбіня (пры лічбе)
г. п.— гарадскі пасёлак (пры назве)
грэч.— грэчаскі
губ.— губерня (пры назве)
даўж.— даўжыня (пры лічбе)
дзярж.— дзяржаўны
д-р — доктар
дыям.— дыяметр
еўрап.— еўрапейскі
ж.— жыхар
жал.— жалезны
З — захад (напрамак свету)
заг.— загадчык
засн.— заснаваны
зах.— заходні
зб.— зборнік (пры назве)
іл.—ілюстрацыя
ін-т — інстытут (пры назве)
інш.— іншы
канд.— кандыдат
кн.— кніга (пры назве); князь (пры імені)
к-т — камітэт (пры назве)
культ.— культурны
лац.— лацінскі
літ.— літаратура
літ.— літоўскі
мін-ва — міністэрства
мяст.— мястэчка (пры назве)
мясц.— мясцовы
н.— нарадзіўся
навук.— навуковы
наз.— называецца
найб.— найбольшы, найбольш
напр.— напрыклад
нар.— народны
нац.— нацыянальны
н.-д.— навукова-даследчы
НДІ — навукова-даследчы інстытут
н. ст.— новы стыль
н. э.— наша эра
пав.— павет (пры назве)
пал.— палавіна
пас.— пасёлак (пры назве)
паўд.— паўднёвы
паўн.— паўночны
пач.— пачатак
Пд — поўдзень
ПдЗ — паўднёвы захад
ПдУ — паўднёвы ўсход
пл.— плошча
Пн — поўнач
ПнЗ — паўночны захад
ПнУ — паўночны ўсход
праф.— прафесар
р.— рака (пры назве)
р-н — раён (пры назве)
р. п.— рабочы пасёлак
рус.— рускі
с.— сяло (пры назве)
сав.— савецкі
скульпт.— скульптурны
слав.— славянскі
СМ — Савет Міністраў
спец.— спецыяльны
ст.— стагоддзе; стагоддзі
старaж.— старажытны
таўшч.— таўшчыня (пры лічбе)
т. зв.— так званы
т-ва — таварыства
тыс.— тысяча
тэр.— тэрыторыя
У — усход
укр.— украінскі
ун-т — універсітэт (пры назве)
усх.— усходні
феад.— феадальны
ф-т — факультэт
цэнтр.— цэнтральны
чал.— чалавек
час.— часопіс (пры назве)
чл.— член
чл.-кар.— член-карэспандэнт
чыг.— чыгуначны
чыг. ст.— чыгуначная станцыя
этнагр.— этнаграфічны

# АРХЕАЛОГІЯ БЕЛАРУСІ

Чалавек на тэрыторыі Беларусі паявіўся ў сярэдзіне стараж. *каменнага веку (палеаліту)*, прыкладна 100—40 тысяч гадоў таму назад, сведчаннем гэтага з'яўляюцца прылады працы эпохі *мусцье* (востраканечнікі, скрэблы, адшчэпы), знойдзеныя каля вёсак *Падлужжа* (Чачэрскі р-н), Свяцілавічы (Веткаўскі р-н). Носьбітамі гэтай культуры былі неандэртальцы — папярэднікі чалавека сучаснага тыпу. Яны палявалі на буйных жывёл (мамант, шарсцістага насарога), займаліся збіральніцтвам, навучыліся здабываць агонь, будаваць жытлы. У гэты час адбыўся пераход ад першабытнага чалавечага статку да радавога ладу. Найбольш стараж. стаянкі першабытнага чалавека на тэр. Беларусі выяўлены каля в. *Бердыж* (Чачэрскі р-н) і *Юравічы* (Калінкавіцкі р-н), адносяцца да верхнепалеалітычнай эпохі, іх узрост 26—22 тыс. г. да н. э. Знойдзены рэшткі жытлаў, сцены якіх умацаваны чарапамі і касцямі мамантаў, валунамі. Большасць прылад працы выраблялася з крамянёвых пласцін, некаторыя з біўняў і рэбраў мамантаў, касцей іншых больш дробных жывёл. Паселішчы належалі радавым абшчынам краманьёнцаў. У канцы палеаліту чалавек рассяліўся пераважна па далінах вял. рэк. Асноўныя рысы часу — развіццё вытворчасці прылад працы з крамянёвых пласцін, пашырэнне лука і прыручэнне сабакі. Развіваліся спосабы апрацоўкі косці, першабытнае мастацтва, існаваў складаны пахавальны абрад, аформілася першабытная рэлігія — татэмізм. Даволі высокі на той час узровень гаспадаркі, выраб прылад працы і будаўніцтва жытлаў далі чалавеку магчымасць выжыць у суровых умовах прыледавіковай, амаль бязлеснай зоны.

У 11-м тысячагоддзі да н. э. на Дняпры і Сажы пачала складвацца *грэнская культура* (*Бароўка* Быхаўскага р-на, *Грэнск* каля Чачэрска, *Журавель* Чэрыкаўскага, *Каромка* Рагачоўскага, *Фойна* Магілёўскага р-наў і інш.), у 10—7-м тысячагоддзях да н. э. на тэр. Зах. Палесся, Валыні, у басейнах Нёмана і Віслы жылі плямёны *свідэрскай культуры* (*Гожа* Гродзенскага, *Нясілавічы* Дзятлаўскага, *Опаль* Іванаўскага р-наў). Апошнія этапы гэтых культур прыпадаюць на эпоху *мезаліту* (9—5-е тысячагоддзі да н. э.).



Рагавыя прылады працы каменнага веку з Панямоння.



Крамянёвыя наканечнікі стрэл канца 3 — пач. 2-га тысячагоддзя да н. э. са стаянкі-2 Асавец Бешанковіцкага р-на.

На працягу ранняга галацэну праз Панямонне, Дняпроўскі басейн, першабытныя лясы-пушчы, што ўзнавіліся, прайшлі плямёны паляўнічых на паўн. аленяў. Насельніцтва паступова стабілізавалася. У мезаліце з Пд па далінах буйных рэк засялялася тэр. Беларусі. Больш за 100 стаянак выяўлена ў Верхнім Падняпроўі, Панямонні і на Прыпяці. За гэты час склаўся мацярынска-радавы лад, фарміраваліся плямёны, развівалася родава-племянная ўласнасць. Асноўным гасп. калектывам гэтага часу была радавая абшчына у якой вытворчыя адносіны поўнасцю супадалі з адносінамі кроўнага сваяцтва па мацярынскай лініі і мелі характар першабытна-камуністычных, заснаваных на калектыўнай вытворчасці, уласнасці і пэўнай роўнасці спажывання. Зліццё некалькіх культурных традыцый прывяло да фарміравання на тэр. усх. Беларусі *сожскай культуры* (*Глыбаўка* Веткаўскага, *Горкі* Чэрыкаўскага, *Лудчыцы* Быхаўскага, *Шыхаў* Жлобінскага р-наў).

У эпоху *неаліту* (на Беларусі пачаўся ў канцы 5-га — 4-м тысячагоддзі да н. э. і доўжыўся каля 2 тыс. г.) клімат значна пацяплеў, усюды раслі лісцевыя лясы, рэльеф і рачная сетка ў асноўным набылі сучасны выгляд. Невялікія паселішчы з наземнымі або паўзямлянкавымі жытламі найчасцей размяшчаліся на рачных тэрасах каля вусцяў малых рэк, на берагах старыц і пясчаных дзюнах. Асноўнымі заняткамі насельніцтва былі рыбалоўства, паляванне і збіральніцтва. Пад канец эпохі ўзніклі і вытворчыя формы гаспадаркі — прымітыўнае земляробства і жывёлагадоўля. Пачалі выкарыстоўвацца камбінаваныя прылады працы, серпападобныя нажы і інш. Удасканальваліся спосабы апрацоўкі каменю, пашыраліся шліфаванне сякер, долатаў, цёслаў, матык. Прылады працы і рэчы ўжытку выраблялі таксама з рога, косці, дрэва. Ад адкрытых распрацовак мярэннага і мелавога крэменю людзі перайшлі да здабычы яго шахтавым спосабам (гл. *Шахты крэменездабыўныя*). Развіваўся прымітыўны абмен крэменем, бурштынам і інш. Найважнейшая адзнака неаліту — пачатак керамічнай вытворчасці. Гліняны посуд ляпілі ўручную і абпальвалі на вогнішчы. Вынаходства посуду дало магчымасць палепшыць спосабы прыгатавання і захоўвання ежы. На тэр. Беларусі вядома 600 неалітычных стаянак, большасць іх сканцэнтравана ў далінах рэк басейнаў Прыпяці, Сажа і Нёмана. Усходняе Палессе ў гэты час насялялі плямёны палескага варыянта *днепра-данецкай культуры*, якія выраблялі вастрадонныя шыракагорлыя гаршкі, упрыгожаныя адбіткамі грэбеня і наколамі, і мікралітычныя прылады працы (*Слабодка*, Юравічы Калінкавіцкага, *Красна-селле* Хойніцкага р-наў і інш.). Басейн Дняпра на ПнУ ад вусцяў рэк Бярэзіна і Іпуць займалі плямёны *верхнедняпроўскай культуры*, для іх характэрны посуд, арнаментаваны ямкавымі і лапчастымі ўзорамі (*Струмень* Кармянскага, *Рудня-Шлягіна* Веткаўскага, *Сябровічы* Чачэрскага, *Вець* Быхаўскага, *Лучын*, *Ходасавічы* Рагачоўскага, Глыбаўка, *Новыя Грамыкі* Веткаўскага, Гронаў Чэрыкаўскага р-наў). Панямонне і левабярэжжа верхняй Прыпяці, суседнія раёны Літвы і Польшчы насялялі плямёны *нёманскай культуры*, насельніцтва якой карысталася пераважна вастрадонным прафіляваным посудам, арнаментаваным наколамі, насечкамі і пракрэсленымі рыскамі, выраблялa лістападобныя наканечнікі стрэл, разнастайныя скрабкі і прылады, якімі секлі (*Добры Бор* Баранавіцкага, *Круглiца* Стаўбцоўскага, *Русакова* Слонімскага, *Моталь* Іванаўскага, *Камень* Пінскага, *Ярэмічы* Карэліцкага р-наў). У 3-м тысячагоддзі да н. э. на ўсх. Пасожжы жылі таксама плямёны дзяснінскай культуры, на тэр. паўд.-зах. Беларусі пранiклі плямёны *лейкападобных кубкаў культуры*, жывёлагадоўчыя плямёны *шарападобных амфар культуры*. У сярэдзіне 3-га тысячагоддзя да н. э. на тэр. паўн. Беларусі пашырыліся плямёны *тыповай грабеньчата-ямкавай керамікі культуры*, для іх быў характэрны гліняны посуд з круглаватым дном і лістападобныя наканечнікі стрэл і коп'яў. Тэрыторыю Бел. Паазер'я ў 4—3-м тысячагоддзях да н. э. насялялі плямёны *нарвенскай культуры*, якія значную частку прылад працы выраблялі з рога і косці. У 2-й пал. 3-га тысячагоддзя да н. э. на гэтай тэрыторыі жылі плямёны, што выраблялі гладкасценны посуд з дамешкамі ў гліне тоўчаных ракавін, арнаментаваны насечкамі, адбіткамі грэбеня і наколамі. У канцы 3-га тысячагоддзя да н. э. сюды перасялілася частка па-



Гліняны гаршчок канца 3 — пач. 2-га тысячагоддзя да н. э. са стаянкі-2 Асавец Бешанковіцкага р-на.



Гаршчок мілаградскай культуры з гарадзішча Івань Слуцкага р-на.



Касцяная фігурка змяі канца 3 — пач. 2-га тысячагоддзя да н. э. са стаянкі-2 Асавец Бешанковіцкага р-на.



Гліняны посуд сярэдзіны 2-га тысячагоддзя да н. э. з курганнага могільніка Ходасавічы Рагачоўскага р-на.

дняпроўскага неалітычнага насельніцтва і плямёны *шнуравой керамікі культур.* У выніку тут склалася *паўночнабеларуская культура,* насельніцтва якой вырабляла ўпрыгожанні з зубоў жывёл, касцяных пласцінак і бурштыну, скульптуры людзей, звяроў і птушак, выразаныя з дрэва, косці. На паўн.-ўсх. тэр. Беларусі пашырыліся *бабінавіцкага тыпу помнікі.*

*Бронзавы век* (на тэр. Беларусі пачаўся ў пач. 2-га тысячагоддзя да н. э.) характарызаваўся паяўленнем медных і бронзавых вырабаў. Аднак аддаленасць ад стараж. цэнтраў металургіі была прычынай захавання



Агульны выгляд гарадзішча Вішчын.

тут на больш доўгі час каменных прылад працы, хоць апрацаваны яны былі значна лепш: шырока выкарыстоўваліся шліфаванне, свідраванне. пілаванне. У бронзавым веку адбыўся першы вялікі падзел грамадскай працы на земляробства і жывёлагадоўлю.

Асноўную ролю ў гасп. і грамадскім жыцці роду і племя паступова пачалі адыгрываць мужчыны — складваўся патрыярхальна-радавы лад (патрыярхат). Пераход да патрыярхату адбываўся ў працэсе значнага развіцця прадукцыйных сіл і павышэння прадукцыйнасці працы ва ўсіх формах гаспадаркі: земляробстве, жывёлагадоўлі, паляванні і рыбалоўстве. Развіццё вытворчасці абумовіла рост абмену і ўзнікненне прыватнай уласнасці. У сваім далейшым развіцці патрыярхат прывёў да маёмаснай дыферэнцыяцыі, замены радавой абшчыны сельскай, узнікнення патрыярхальнага рабства і зараджэння падзелу грамадства на класы. У рэлігійных вераваннях пашырыліся касмаганічныя культы, культ продкаў. Бронзавы век падзяляюць на 3 перыяды: ранні (2000—1600 г. да н. э.), сярэдні (1500—1200 г. да н. э.) і позні (з 1100 г. да н. э.) У раннім бронзавым веку на тэр. Беларусі існавала некалькі варыянтаў культур шнуравой керамікі. На паўд. яе тэрыторыі жылі плямёны *шнуравой керамікі Палесся культуры,* якія карысталіся сякерамі-клінамі, свідраванымі матыкамі і серпападобнымі нажамі. Тэрыторыю сучасных Гомельскай і Магілёўскай абл. насялялі плямёны *сярэднедняпроўскай культуры* (Струмень, Лучын, Сябровічы), што карысталіся гаршкамі з круглаватымі бакамі і высокай яйцападобнай шыйкай, нябожчыкаў хавалі на курганных і бескурганных могільніках з пахавальным абрадам трупапалажэння і трупаспалення. У Панямонні паявіліся плямёны *прыбалтыйскай культуры* (знойдзены толькі рэшткі паселішчаў і адзінкавыя пахаванні). У сярэднім



Бронзавыя бранзалеты, пярсцёнкі і фібулы 2—1 ст. да н. э. з бескурганнага могільніка Чаплін Лоеўскага р-на.

бронзавым веку на паўд. тэр. Беларусі пашыраліся плямёны *тшцінецкай культуры,* якія аздаблялі посуд наразным арнаментам, нябожчыкаў хавалі ў бескурганных і курганных могільніках. Усходнія помнікі гэтай культуры часта вылучаюць у самастойную *сосніцкую культуру.* Свой посуд (высокія пласкадонныя гаршкі) яны нярэдка арнаментавалі па ўсёй паверхні. Іх пахавальны абрад — трупаспаленне на бескурганных могільніках. Значны ўплыў на мясцовае насельніцтва аказалі плямёны катакомбнай культуры, *шматвалікавай керамікі культуры* (на ПдУ Беларусі) і *лужыцкай культуры* (на ПдЗ Палесся). Большасць даследчыкаў звязваюць носьбітаў тшцінецкай, сосніцкай, лужыцкай і прыбалтыйскай культур з продкамі балтаў і славян. Позні бронзавы век на тэр. Беларусі вывучаны недастаткова. Вядома, што на Пн мясцовыя плямёны выраблялі гладкасценную, у цэнтр. Беларусі і Панямонні — штрыхаваную кераміку.

*Жалезны век* пачаўся ў 7—6 ст. да н. э., калі плямёны, што жылі на тэр. Беларусі, навучыліся здабываць жалеза і вырабляць з яго прылады працы, зброю, упрыгожанні. Жалеза тут выплаўлялі з балотнай руды ў невял. паўшарападобных печахдомніцах. У працэсе археал. даследаванняў на гарадзішчах каля в. *Лабеншчына* Мінскага, Свідна Лагойскага, *Канькі* Віцебскага р-наў выяўлены амаль цэлыя печы-домніцы, каля в. *Урагава* Верхнядзвінскага і *Новы Болецк* Гарадоцкага р-наў — майстэрні, у якіх апрацоўвалі жалеза. З вынаходствам жалеза гал. заняткам стараж. плямён станавілася ляднае (падсечнае) земляробства, а з яго развіццём павысілася гасп. значэнне жывёлагадоўлі. Паляванне, рыбалоўства і збіральніцтва паступова ператвараліся ў дапаможны занятак. Развівалася рамяство — апрацоўка дрэва і косці, бронзаліцейная справа, прадзіва, ткацтва, пляценне, ганчарства. Людзі пачалі будаваць больш складаныя жылыя і гасп. пабудовы.

У 7—3 ст. да н. э. на тэр. сучасных Гомельскай, Магілёўскай, Пд Мінскай і У Брэсцкай абл. займалі плямёны *мілаградскай культуры.* Яны выраблялі жал. прылады працы і зброю, бронзавыя ўпрыгожанні, карысталіся круглаДОННЫМ гладка-

сценным посудам, верхнюю частку якога арнаментавалі ямкамі і насечкамі. Своеасаблівая рыса гэтай культуры — гліняныя фігуркі жывёл, якія, відаць, мелі культавае прызначэнне. У 4—2 ст. да н. э. на З Брэсцкай вобл., дзе ў пачатку жал. веку жылі позналужыцкія плямёны, з тэр. Польшчы пашырыліся плямёны *паморскай культуры* (усходнепаморскай культуры). Іх помнікі — неўмацаваныя паселішчы і бескурганныя могільнікі з 4 відамі пахаванняў: абкладзеныя камянямі, урнавыя, падклёшавыя (урна накрыта вял. гаршком — «клёшам») і ямныя. Большасць даследчыкаў лічыць паморскую культуру славянскай. У 3 ст. да н. э. на тэр. сучасных Гомельскай, Магілёўскай, б. ч. Брэсцкай і Пд Мінскай абл., дзе раней жылі плямёны мілаградскай і паморскай культур, склалася *зарубінецкая культура.* Яе насельніцтва карысталася сякерамі-кельтамі, сярпамі, лістападобнымі наканечнікамі коп'яў, дроцікамі скіфскага і кельцкага тыпаў, вырабляла грубаляпны і глянцаваны посуд, падтрымлівала сувязі са скіфамі, сарматамі, кельтамі, гарадамі Паўн. Прычарнамор'я і інш. На думку многіх даследчыкаў, гэта культура таксама належала славянам. У 2-й чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. ў Верхнім і Сярэднім Падняпроўі з'явіліся плямёны *кіеўскай культуры (Адаменка, Новы Быхаў, Тайманава, Чырвоная Зорка* Быхаўскага р-на). У яе генезісе некаторыя даследчыкі адзначаюць важнае значэнне зарубінецкіх старажытнасцей і нават вылучаюць яе ў позні этап зарубінецкай культуры або ў самастойную позназарубінецкую культуру. У 5—7 ст. на тэр. паўд. Беларусі жылі плямёны *калочынскай культуры* (*Калочын* Рэчыцкага, *Шчаткава* Бабруйскага, *Нісімкавічы* Чачэрскага р-наў). У 7—6 ст. да н. э.— 4—5 ст. н. э. тэр. цэнтральнай Беларусі насялялі плямёны *штрыхаванай керамікі культуры.* Яны выраблялі жал. прылады працы і зброю, бронзавыя ўпрыгожанні, карысталіся слоікападобнымі пасудзінамі і вастрарэбрымі гаршкамі са штрыхаванай паверхняй. У 8 ст. да н. э.— 4 ст. н. э. на тэр. паўночнай Беларусі жылі плямёны *днепрадзвінскай культуры*, якія на раннім этапе выраблялі прылады працы і ўпрыгожанні з каменю і косці, на познім — з жалеза і бронзы, а таксама гладкасценныя слабапрафіляваныя і слоікападобныя пасудзіны. У 2-й пал. 2 — канцы 4 ст. н. э. ў зах. раёны Бел. Палесся праніклі плямёны *вельбарскай культуры (Брэсцкі бескурганны могільнік).* З 6 ст. на Пд Беларусі рассяліліся плямёны *пражскай культуры* (культура тыпу Карчак), якія выраблялі высокія слабапрафіляваныя ляпныя гаршкі з максімальна расшыраным тулавам у верхняй частцы, звужанымі горлам і дном, апушчаным плечуком, кароткай прамой або ледзь адагнутай шыйкай. У 8—9 ст. посуд набыў больш развітую прафіляваную форму: адагнутую шыйку, прыўзнятыя плечукі, больш пукатае тулава, шмат пасудзін арнаментавана (культура тыпу Лукі Райкавецкай). У цэнтр. частцы і на Пн тэр. Беларусі, а таксама ў суседніх раёнах Верхняга Падняпроўя ў 3-й чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. пашырыліся помнікі *банцараўскай культуры*, для якой характэрны слабапрафіляваныя ляпныя пласкадонныя гаршкі з крыху адагнутым венчыкам, слабавыражанай шыйкай, моцна апушчаным плечуком, злёгку пукатым тулавам, а таксама круглабокія цыліндраканічныя і міскападобныя пасудзіны.



Жаночыя ўпрыгожанні з курганнага могільніка радзімічаў Ветачка.



Бронзавая трапецападобная падвеска з гарадзішча каля в. Гарадзішча Мядзельскага р-на.

У 6—9 ст. у славян, якія насялялі тэр. Беларусі, адбываўся пераход ад першабытнаабшчыннага ладу да феадальнага. Развівалася папарная сістэма земляробства (двухполле, трохполле). Хатнія промыслы паступова ўтварылі асобную галіну рамеснай вытворчасці (апрацоўка жалеза, каляровых металаў і інш.). Наладжваліся знешнія сувязі плямён, пра што сведчаць знаходкі

скарбаў усх. манет 8—10 ст. Ворнае земляробства было найважнейшай перадумовай узнікнення адасобленай гаспадаркі малой сям'і, што пры развіцці прыватнай уласнасці прывяло да распаду абшчын, звязаных кроўным сваяцтвам. Сваяцкія сувязі сталі траціць сілу, на адкрытых паселішчах размяшчаліся і сем'і з чужых родаў. Радавая абшчына паступова саступала месца суседскай сельскай абшчыне, у аснове якой ляжалі тэрытарыяльныя і эканамічныя сувязі.

Усходнія славяне рассяліліся на вялізнай тэрыторыі ад Ладажскага возера на Пн да берагоў Чорнага мора на Пд. Яны падзяляліся на 13—14 саюзаў плямён на чале са старэйшынамі. На тэр. Беларусі племяннымі аб'яднаннямі былі *крывічы*, *дрыгавічы* і *радзімічы*. Полацкія крывічы — *палачане* — займалі тэр. сучаснай Віцебскай і Пн Мінскай абл. Яны мелі сваё дзяржаўнае ўтварэнне — «княжанне». Этнавызначальнай адзнакай палачан былі шкляныя залачоныя пацеркі і драцяныя скроневыя кольцы (дыям. 5—11 см) з завязанымі канцамі, якія насілі жанчыны каля скроняў на скураной павязцы. Найбольш старaж. пахавальныя помнікі палачан — *доўгія курганы* з пахавальным абрадам трупаспалення, нярэдка з ахвярапрынашэннем жывёл. З 10 ст. пашырыўся пахавальны абрад трупапалажэння паводле слав. звычаю галавою на захад. Яны мелі гарады Полацк, Віцебск, Лукомль, Друцк і інш. Дрыгавічы жылі ў басейнах Прыпяці і Дняпра, вярхоўях Случы і Арэсы. У сацыяльна-палітычных адносінах належалі да найб. развітых груп усх. славян. Іх этнавызначальная адзнака — зярнёныя пацеркі, пахавальныя помнікі — курганныя могільнікі з пахавальным абрадам трупаспалення, з канца 10 ст.— трупапалажэння, трапляюцца пахаванні ў трунах-церамках. Яны мелі гарады Тураў, Пінск, Бярэсце (Брэст) і інш. Радзімічы насялялі міжрэчча Дзясны і Дняпра, басейн Сажа. Іх племянная этнавызначальная адзнака — сярэбраныя або бронзавыя сяміпрамянёвыя скроневыя кольцы, а таксама пласціністыя шыйныя грыўні з разеткападобнымі і шматграннымі канцамі і нагрудныя падвескі. Найбольш даследаваныя помнікі радзімічаў — курганныя могільнікі з пахавальным абрадам трупаспалення ці трупапалажэння. Яны мелі гарады Гомель, Прапошаск (Слаўгарад), Чачэрск і інш. У міжрэччы Нёмана і Зах. Буга і на З Верхняга Панямоння жылі *ятвягі* і ўсходнелітоўскія плямёны (гл. *Усходнелітоўскія курганы*). Іх пахавальныя помнікі — каменныя курганы і курганныя могільнікі з пахавальным абрадам трупаспалення (пераважна) і трупапалажэння.

У апошняй чвэрці 1-га тысячагоддзя ва ўсх. славян паскорылася развіццё прадукцыйных сіл. Аддзяленне рамяства ад сельскай гаспадаркі спрыяла ўзнікненню і хуткаму росту гарадоў. Развіваліся ліцейнае, кавальскае, ювелірнае, касцярэзнае рамёствы, ганчарства, разьба па дрэве і інш. Расло маёмаснае расслаенне, усталёўвалася феадальная ўласнасць на зямлю. Князі стваралі спец. вайсковыя арганізацыі — дружыны. У раннефеадальнае палітычнае аб'яднанне ўсходнеславянскіх зямель — Кіеўскую Русь — у 9—10 ст. увайшлі і племянныя аб'яднанні, што насялялі тэр. Беларусі.



Залаты віты пярсцёнак 11 ст. з Полацка.



Касцяная капавушка з навершам у выглядзе галавы птушкі 11—13 ст. з Полацка.

У 10—12 ст. роднасныя ўсходнеславянскія плямёны складваліся ў старажытнарускую народнасць, якая характарызавалася наяўнасцю адносных эканамічных сувязей, этнічнай, тэрытарыяльнай, культурнай і моўнай супольнасцю, але гэты працэс не атрымаў свайго завяршэння. Развіццё прадукцыйных сіл, пашырэнне феадальнага землеўладання, імкненне феадалаў стварыць на месцах моцную ўладу абумовілі феадальную раздробленасць Кіеўскай Русі.

Умацоўваючы сваю магутнасць, асобныя княствы рабілі спробы выйсці з-пад улады Кіева. Адным з першых стала адасабляцца Полацкае княства з цэнтрам у Полацку. Выгаднае размяшчэнне на водных шляхах (заходнядзвінскае адгалінаванне *шляху «з варагаў у грэкі»*)



Залатое скроневае кольца 12 ст. з Полацка.

спрыяла хуткаму эканамічнаму і культурнаму развіццю княства. На працягу 10 ст. Полацк стаў буйным цэнтрам усх. славян. У горадзе сканцэнтравалася мясцовая знаць, якой належала ўлада. Найбольшай магутнасці княства дасягнула пры Усяславу Брачыслававічу [1044—1101]. Пасля яго смерці Полацкае княства распалася на Мінскае, Ізяслаўскае, Віцебскае, Друцкае, Лагожскае і інш. ўдзельныя княствы. У 12 ст. ўлада князёў у Полацку значна аслабла. Іх назначэнне і выгнанне цалкам залежала ад веча, дзейнасць якога накіроўвалі буйныя феадалы, што абмяжоўвалі ўладу князя ў сваіх інтарэсах. Палітычнае жыццё Полацка 2-й пал. 12 ст. характарызавалася барацьбой баярскіх груповак, зменай князёў, выступленнямі гараджан. Палачанам давялося весці цяжкую барацьбу са знешнімі ворагамі. Іх дружыны неаднойчы выступалі супраць крыжакоў.

Тураўскае княства з цэнтрам у Тураве склалася ў канцы 1-га тысячагоддзя на землях дрыгавічоў. На працягу 10—11 ст. яно было пад уладай кіеўскіх князёў, у канцы 12 ст. распалася на ўдзелы, з яго вылучыліся Пінскае, Клецкае і інш. княствы.

Паўночная частка Пасожжа з гарадамі Мсціслаў, Крычаў, Прапойск (Слаўгарад) у 12—13 ст. уваходзіла ў Смаленскае княства, тэрыторыя па ніжнім цячэнні Сажа з гарадамі Гомель, Чачэрск, а таксама г. Рэчыца — у Чарнігаўскае княства.

У Верхняе Панямонне (т. зв. Чорную Русь) слав. насельніцтва пранікла ў 3-й чвэрці 1-га тысячагоддзя. Першымі славянамі тут, відаць, былі крывічы, крыху пазней паявіліся дрыгавічы і выхадцы з Валыні. У пачатку 12 ст. ўзнікла Гарадзенскае княства, з сярэдзіны 13 ст. існавалі Наваградскае, Ваўкавыскае і Свіслацкае ўдзельныя княствы. Упамінанне ў летапісах г. Гародна (Гродна), Наваградка (Навагрудка), Ваўкавыска, Слоніма звязана з барацьбой галіцка-валынскіх князёў з літоўскімі за ўладанне Верхнім Панямоннем.

Эканамічныя сувязі зах. зямель старaж. Русі развіваліся ва ўмовах натуральнай гаспадаркі. Хоць патрэба ў набыцці тавараў была абмежаваная, паміж асобнымі землямі Русі існаваў гандаль. З Валыні трапляла шмат шыферных прасліц, з Кіева прывозілі шкляныя вырабы (бранзалеты, пацеркі, посуд), рэчы рэлігійнага культу. З Крыма паступалі амфары з вінoм і аліўкавым алеем, з Візантыі і краін Блізкага Усходу — прадметы раскошы (квяцістыя тканіны, шкляны посуд мастацкай вытворчасці, аздоблены золатам і эмаллю; серабро паступала ў выглядзе манет), з Прыбалтыкі — бурштын. Важным таварам у міжабласным гандлі была соль. З зах. зямель Русі вывозіліся мёд, воск, футра. У дакументах 13 ст. ёсць звесткі пра гандлёвыя сувязі Полацка і Віцебска з Рыгаю. Знешні гандаль вёўся паміж гарадамі, размешчанымі на буйных водных шляхах — Зах. Дзвіне, Дняпры, Нёмане.

Культура заходніх зямель Русі развівалася ў агульным рэчышчы старажытнарускай культуры. З 10 ст. пашырылася пісьменнасць. Развівалася вусная народная творчасць. Значную ролю ў пашырэнні пісьменнасці і асветы адыгрывалі Полацк і Тураў, дзе, відаць, вялося летапісанне. Своеасаблівыя і непаўторныя полацкая манументальная архітэктура і фрэскавыя размалёўкі 11—12 ст. Выдатныя мураваныя культавыя пабудовы 12 ст. існавалі ў Віцебску, Навагрудку, Гродне, Тураве.

Феадальная раздробленасць зямель Русі, іх аслабленне ў выніку мангола-татарскага нашэсця, націск з боку крыжакоў, паходы літоўскіх феадалаў, класавыя супярэчнасці ва ўмовах развіцця феадальных адносін і зацікаўленасць бел. феадалаў у моцнай дзяржаўнай уладзе, здольнай абараняць іх класавыя інтарэсы,— усё гэта абумовіла ўваходжанне ў 13—14 ст. зямель Беларусі ў склад Вял. кн. Літоўскага.

Рост антыфеадальных выступленняў у Вял. кн. Літоўскім, абвастрэнне ўнутрыкласавых і нацыянальных супярэчнасцей, захопніцкія войны і ваенныя няўдачы вялі да аслаблення дзяржавы і садзейнічалі аб'яднанню ў 1569 Вял. кн. Літоўскага з Польскім Каралеўствам у федэратыўную дзяржаву — Рэч Паспалітую. У выніку падзелаў Рэчы Паспалітай паміж Расіяй, Прусіяй і Аўстрыяй у 1772, 1793 і



Пячная кафля 17—18 ст. з Віцебска.



Бронзавае ўпрыгожанне ў выглядзе птушкі 12 ст. з Полацка.

1795 тэр. Беларусі была далучана да Расійскай імперыі.

Археалогія (ад грэч. archáios старажытны + lógos навука) як спецыялізаваная галіна гіст. навукі даследуе побыт і культуру старaж. плямён і народаў паводле рэчавых крыніц, што захаваліся да нашых дзён. Тэрыторыя Беларусі адносіцца да рэгіёнаў параўнаўча добра вывучаных у археал. адносінах. Першыя пісьмовыя звесткі пра месцы рассялення ўсх. славян і іх старaж. гарады Полацк, Тураў, Брэст, Друцк, Мінск, Оршу і інш. змешчаны ў «Аповесці мінулых гадоў». Многія археал. помнікі Беларусі (гарадзішчы, замчышчы, фартэцыі) упамінаюцца ў «Хроніцы» М. Стрыйкоўскага 16 ст. Археалагічнае вывучэнне старажытнасцей Беларусі практычна пачалося ў 2-й пал. 18 ст. Раскопкамі курганоў у маёнтку Мосар на Віцебшчыне зацікавіўся кароль Рэчы Паспалітай Станіслаў Аўгуст. У 1-й чвэрці 19 ст. Т. *Нарбут* даследаваў курганы паміж Магілёвам і Рагачовам і ў маёнтку Шаўры Лідскага пав., вызначыў пахавальны абрад — інгумацыю на грунце пад насыпам. З. Я. *Даленга-Хадакоўскі* склаў 4-томны «Слоўнік назваў гарадзішчаў і ўрочышчаў», дзе сярод некалькіх тысяч археал. помнікаў каля 200 зафіксавана на Беларусі (дарэчы, гарадзішчы ён лічыў свяцілішчамі). У сярэдзіне 19 ст. Я. П. *Тышкевіч* вывучаў курганы на Міншчыне. На аснове сабраных матэрыялаў ён стварыў у 1855 *Віленскі музей старажытнасцей* і пры ім *Віленскую археалагічную камісію*, якая збірала і вывучала старажытнасці, праводзіла раскопкі, выдавала на іх дазвол. Камісія надрукавала некалькі тамоў «Запісак» і шэраг краязнаўчых парад. Яго брат К. П. *Тышкевіч* даследаваў каля 200 курганоў, гарадзішчы і замчышчы Мінскай губ., склаў іх тапаграфічныя планы, першы сфармуляваў канкрэтныя задачы раскопак. А. Г. К. *Кіркор* раскопваў курганы ў Ашмянскім, Барысаўскім, Вілейскім, Навагрудскім, Мінскім пав., класіфікаваў археал. помнікі, выказаў думкі пра іх датаванне, паводле пахавальнага абраду вызначаў этнічную прыналежнасць нябожчыкаў. У выніку раскопак у наваколлі Навагрудка прыйшоў да высновы,

што не існуе чыста славянскіх або чыста балцкіх курганоў, элементы культур гэтых плямён перамяшаны. На Полаччыне курганы раскопваў К. А. *Гаворскі,* на Лепельшчыне каля 100 курганоў даследаваў М. Ф. *Кусцінскі.* Асноўнымі прыёмамі вывучэння курганоў у сярэдзіне 19 ст. і пазней у Расіі і за мяжой былі раскопкі вузкай ямай «калодзезем» ці траншэяй. У 1886—94 археал. раскопкі ў Віцебскай і Магілёўскай губ. праводзіў Е. Р. *Раманаў.* Ён сабраў звесткі пра 1000 помнікаў археалогіі, складаў археал. карты, выявіў стаянкі каменнага веку, выказаў меркаванне, што тэр. Беларусі заселена чалавекам з эпохі палеаліту. Курганы на Беларусі даследавалі М. М. *Турбін* (у Ашмянскім, Быхаўскім, Мсціслаўскім пав. і каля Заслаўя), Р. Г. *Ігнацьеў,* Г. Х. *Татур* (у Мінскай губ.) і інш. У. З. *Завітневіч* раскапаў каля 670 курганоў пераважна ў Бабруйскім, Мазырскім і Рэчыцкім пав., паводле этнавызначальных прадметаў (металічныя зярнёныя пацеркі) вызначыў межы рассялення дрыгавічоў. Ф. В. *Пакроўскі* праводзіў археал. даследаванні на мяжы Літвы і Беларусі, склаў археал. карты Віленскай і Гродзенскай губ. В. А. *Шукевіч* выявіў больш за 130 помнікаў каменнага веку, раскапаў 16 курганоў і 376 каменных магіл 13—14 ст. на Гродзеншчыне. Археал. раскопкі праводзілі М. П. *Авенарыус* (курганы ў Браслаўскім і Навагрудскім пав. і на Магілёўшчыне), І. І. *Далгоў* (курганы на Полаччыне), Ф. *Вярэнька* (гарадзішчы і курганы на Упаччыне), З. *Глогер* (помнікі каменнага веку ў Панямонні і курганы каля Ваўкавыска), І. І. *Стаброўскі* (курганы ў бас. Нёмана), М. В. *Фурсаў,* С. Ю. *Чалоўскі* (курганы на Магілёўшчыне) і інш. А. А. *Спіцын* зрабіў агляд археал. даследаванняў бел. губерняў, згрупаваў матэрыялы ў храналагічнай паслядоўнасці з каменнага веку да сярэднявечча. Істотны ўплыў на развіццё археал. даследаванняў на Беларусі аказаў 9-ы археалагічны з'езд, які адбыўся ў 1893 у Вільні. Нягледзячы на пэўныя поспехі, археал. даследаванні на Беларусі ў дарэвалюцыйны час мелі аднабаковы характар. Работы праводзіліся дзякуючы энтузіязму асобных вучоных. Шырока даследаваліся пераважна могільнікі, атрыманыя матэрыялы ацэньваліся з пункта гледжання рэчазнаўства, а курганы не разглядаліся ў якасці гіст. помнікаў. Найбольш пашыраным спосабам вывучэння курганоў у пач. 20 ст. лічыліся раскопкі 2 траншэямі (накрыж), што пры даследаваннях буйных насыпаў не дазваляла грунтоўна іх вывучаць. Характэрнай рысай дарэвалюцыйнай археалогіі на Беларусі быў яе краязнаўчы характар: адсутнічаў нацыянальны даследчы цэнтр, які б каардынаваў даследаванні, распрацоўваў перспектыўную навуковую праграму і экспедыцыйныя работы.

Інтэнсіўныя археал. даследаванні на Беларусі пачаліся пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі. У 1919 пры Наркамаце асветы Літоўска-Беларускай рэспублікі была ўтворана першая дзярж. ўстанова — Археалагічная камісія, якая, акрамя даследчых задач, узяла на сябе функцыі ўліку і аховы археал. помнікаў. Створаная ў 1921 Навукова-тэрміналагічная камісія пры Наркамаце асветы БССР правяла значную работу па выяўленні і ўліку археал.



Касцяныя грабяні 13 ст. Віцебск.



Шкляныя, хрусталёвыя і сердалікавыя пацеркі 11—12 ст. з Навагрудскага курганнага могільніка.

помнікаў. У 1922 яе функцыі перададзены *Інстытуту беларускай культуры* (Інбелкульту). У 1925 пры Інбелкульце ўтворана гісторыка-археал. камісія, што ўзначаліла вывучэнне археал. помнікаў. У 1927 арганізавана кафедра археалогіі, якая ў 1929 пад назвай археалагічнай камісіі ўвайшла ў склад Ін-та гісторыі Беларускай АН, у 1932 перайменавана ў секцыю археалогіі. У 1920—30-я г. асн. задачай бел. даследчыкаў было выяўленне новых помнікаў і папярэдняе вызначэнне іх археал. прыналежнасці. К. М. *Палікарповіч* выявіў і даследаваў палеалітычныя стаянкі ў



Касцяны абразок з выявай Матфея 13 ст. з Віцебскага пасада.

Бердыжы, Падлужжы, Юравічах, помнікі мезаліту, неаліту і бронзавага веку на Дняпры, Сажы, Беседзі, Зах. Дзвіне, абгрунтаваў думку, што чалавек на тэр. Беларусі паявіўся ў палеаліце. А. М. *Ляўданскі* класіфікаваў гарадзішчы ранняга жал. веку, вызначыў іх культурна-археал. прыналежнасць, акрэсліў рысы матэрыяльнай культуры, гаспадаркі і патрыярхальнага ладу плямён жал. веку, раскопваў курганы ў Мінскай, Полацкай і Аршанскай акругах, даследаваў стараж. Полацк, Заслаўе, Оршу. Ён выказаў меркаванне, што курганныя могільнікі ў раёне Полацка, Віцебска ў 8—9 ст. належалі крывічам і паводле культуры блізкія да курганоў Смаленшчыны. Ляўданскі стварыў дзейсны калектыў археолагаў-энтузіястаў, якія зрабілі значны ўклад у вывучэнне старажытнасцей Беларусі. Пачынаючы з 1926 яны раскопвалі курганы новым спосабам (поўнасцю «на знос»), які даваў магчымасць больш дэталёва вывучыць увесь насып і пахавальны абрад. С. А. *Дубінскі* даследаваў гарадзішчы жал. веку і курганы 11—13 ст. на Міншчыне, Магілёўшчыне,

Віцебшчыне. Значны ўклад у развіццё археалогіі зрабілі А. Дз. *Каваленя,* І. А. *Сербаў,* С. С. *Шутаў,* М. М. *Улашчык* і інш. Вялікія страты панесла навука ў час сталінскіх рэпрэсій 1930-х г., калі былі рэпрэсіраваны і загінулі многія вядучыя бел. археолагі.

У Зах. Беларусі, якая ў 1921—39 знаходзілася ў складзе Польшчы, археал. даследаванні праводзіліся несістэматычна. Найб. значныя раскопкі ажыццявілі У. *Антаневіч,* У. *Галубовіч,* Г. *Цэгак-Галубовіч,* Я. Савіцкі, С. Крукоўскі, Ю. *Ядкоўскі,* З. *Шміт,* З. *Дурчэўскі,* М. Федароўскі, Р. Якімовіч і інш. У Панямонні каля пас. Краснасельскі былі выяўлены крэмнездабыўныя шахты, зроблены першыя спробы вылучэння мясцовых археал. культур, у т. л. найбольш ранняй — свідэрскай. Польскімі археолагамі былі праведзены выратавальныя археал. работы на Замкавай гары ў Гродне, разведвальныя раскопкі ў Ваўкавыску, раскопкі курганных могільнікаў (*Засвір, Наўры* Мядзельскага, *Падрось* Ваўкавыскага р-наў).

Пасля Айчыннай вайны працягвалася планамернае археал. вывучэнне Беларусі. Яго праводзілі супрацоўнікі сектара археалогіі, утворанага ў 1944 у Ін-це гісторыі АН БССР. На тэр. Беларусі выяўлена каля 640 помнікаў каменнага і 670 помнікаў бронзавага вякоў, гал. чынам на Палессі, у Пасожжы і Панямонні. Грунтоўна вывучаліся верхнепалеалітычныя стаянкі Бердыж, Падлужжа (раскапана 400 м²) і Юравічы (260 м²). Даследавана 30 мезалітычных помнікаў (6,5 тыс. м²), 78 неалітычных паселішчаў (28 тыс. м²). У Падняпроўі вывучаны 18 могільнікаў бронзавага веку, на паселішчах раскапана 5,6 тыс. м², сабраны буйныя калекцыі (больш за 150 тыс. каменных прылад, да 1200 вырабаў з рога і косці, 90 рэчаў з бронзы, фрагменты соцень гліняных арнаментаваных гаршкоў). Выкарыстанне дакументаваных археал. крыніц дазволіла зрабіць важныя абагульненні. Было ўстаноўлена, што на тэр. Беларусі існавала 12—15 культур каменнага веку (свідэрская, арэнсбургская, яніславіцкая, каморніцкая, сожская, грэнская, днепра-данецкая, верхнеднепроўская, нёманская, лейкападобных кубкаў, шарападобных амфар, нарвенская, тыповай грабеньчата-ямачнай керамікі; помнікі Бабінавіцкага тыпу і інш.), 9 культур бронзавага веку (шнуравой керамікі, сярэднедняпроўская, тшцінецкая, сосніцкая, лужыцкая, паўночнабеларуская, прыбалтыйская і інш.). Значны ўклад у вывучэнне помнікаў і культур каменнага і бронзавага вякоў унеслі К. М. Палікарповіч, У. Дз. *Будзько,* У. Ф. *Ісаенка,* М. М. *Чарняўскі,* У. П. *Ксяндзоў,* А. Г. *Калечыц,* Э. М. *Зайкоўскі,* В. Ф. *Капыцін,* В. Л. *Лішіцкая,* В. Р. *Супрун,* М. М. *Крывальцэвіч,* І. М. *Цюрына,* І. М. Ціханенкаў, М. В. Бычкоў і інш. У 1950—80-я г. праводзілася мэтанакіраванае даследаванне помнікаў жал. веку (А. Р. *Мітрафанаў,* Л. Д. *Побаль,* К. П. *Шут,* В. Б. *Караткевіч,* В. І. *Шадыра,* В. С. *Вяргей,* А. А. *Егарэйчанка,* М. І. *Лашанкоў* і інш.). Былі вывучаны трывалыя этнічныя ўтварэнні гэтага часу і археал. культуры. Для кожнай з гэтых культур (мілаградская, паморская, зарубінецкая, штрыхаванай керамікі, днепра-дзвінская, кіеўская, вельбарская, пражская, банцараўская, калочынская і інш.) характэрны пэўныя рысы, што праяўляліся ў спецыфіцы паселішчаў і жытлаў, формах і арнаменце глінянага посуду і інш.



Магілёўская стаянка. Агульны выгляд раскопу.

На працягу апошніх 40 гадоў археолагі вывучалі стараж. бел. гарады 9—13 ст., выяўлялі прыкметы, якія адрознівалі горад ад сельскага паселішча, вызначалі іх дакладную лакалізацыю, тапаграфію, тыпалогію ўмацаванняў і планіроўкі, храналогію старажытнасцей, атрымалі даныя пра іх гасп. жыццё і матэрыяльную культуру, памеры гарадоў і абарончых збудаванняў, гар. некропалі (В. Р. *Тарасенка,* Г. В. *Штыхаў,* Э. М. *Загарульскі,* П. Ф. *Лысенка,* Я. Г. *Звяруга,* А. А. *Макушнікаў,* Л. У. *Калядзінскі,* Т. С. *Бубенька*). Пры даследаваннях яны выкарыстоўвалі пераважна метад раскопак вял. плошчамі. На помніках, дзе культурны пласт утрымліваў дрэва, па рэшт-

ках драўляных канструкцый даследчыкі расчляпялі пласт на будаўнічыя гарызонты (ярусы) — комплексы сінхронных пабудоў. Найб. буйныя раскопкі праведзены ў Віцебску, Мінску, Полацку, Заслаўі, Тураве, Брэсце, Гомелі, Навагрудку, Ваўкавыску, Мсціславе, Слуцку, Чачэрску, Гродне. З сярэдзіны 1970-х г. пачалося даследаванне матэрыяльнай культуры бел. гарадоў 14—18 ст., калі ўжо сфарміравалася бел. народнасць. Культурны пласт гэтага перыяду звычайна перакрываў напластаванні эпохі Кіеўскай Русі. Значны матэрыял позняга сярэднявечча выяўлены ў Віцебску, Мінску, Полацку, Заслаўі, Мсціславе, Гродне, Слоніме (М. А. *Ткачоў*, В. М. *Ляўко*, З. С. *Пазняк*, В. Е. *Собаль*, Ю. А. *Заяц*, С. В. *Тарасаў* і інш.). Для абгрунтавання датавання і характарыстыкі архітэктурна-дэкаратыўнай керамікі бел. даследчыкі распрацавалі тыпалагічную шкалу развіцця кафлі. Для інтэрпрэтацыі выяў на кафлі і інш. сярэдневяковых вырабаў выкарыстоўваліся матэрыялы геральдыкі, цесна звязанай з археалогіяй, нумізматыкай, сфрагістыкай, бо ў канцы 16—1-й пал. 17 ст. многія гарады Беларусі атрымалі магдэбургскае права і гар. гербы. Праводзіліся раскопкі ў населеных пунктах, якія актыўна развіваліся ў познім сярэднявеччы (14—18 ст.), у Езярышчы, Ашмянах, Свіслачы, Суражы, Смалянах, Стрэшыне, Шклове, Лепелі, Дзісне, Друі, Мядзелі, Маладзечне, Магілёве, Лідзе, Гальшанах, Любчы, Лоску, Міры і інш. (А. А. *Трусаў*, А. К. *Краўцэвіч*, І. М. *Чарняўскі*, Г. М. *Сагановіч* і інш.). Вывучэнне сярэдневяковых паселішчаў, гарадзішчаў (Я. Р. *Рыер*, В. У. *Шаблюк*, А. В. Іоў), курганных могільнікаў (Л. У. *Дучыц*, І. В. *Біруля*, Т. М. *Каробушкіна*, У. У. *Багамольнікаў*, А. М. *Плавінскі*), каменных магіл (А. В. Квяткоўская) дазваляе вызначыць матэрыяльную культуру феад. вёскі, асвятліць этнічную гісторыю насельніцтва Беларусі.

У 1980 на базе сектара археалогіі Ін-та гісторыі АН БССР утвораны аддзел археалогіі з сектарамі. У 1986 тры сектары пераўтвораны ў асобныя археал. аддзелы. Стараж. помнікі на Беларусі даследавалі таксама археолагі НДІ «Белрэстаўрацыя», БДУ, Гомельскага і Гродзенскага ун-таў, Магілёўскага пед-інстытута, Дзярж. музея БССР, Гродзенскага гісторыка-археал. музея, Ваўкавыскага ваенна-гіст. музея, Брэсцкага, Віцебскага, Гомельскага, Магілёўскага, Пінскага і інш. краязнаўчых музеяў. Археал. помнікі Беларусі вывучалі таксама супрацоўнікі *Інстытута археалогіі* Расійскай АН і *Інстытута гісторыі матэрыяльнай культуры*. Імі даследаваны многія пытанні гісторыі Беларусі: эпоха неаліту і бронзавага веку (І. І. *Арцёменка*, Н. М. *Гурына*), мілаградскай (В. М. *Мельнікоўская*) і зарубінецкай культур (К. В. *Каспарава*), першабытныя і сярэдневяковыя помнікі Палесся (Ю. У. *Кухарэнка*), помнікі жал. веку і ранняга сярэднявечча зах. і паўн.-зах. Беларусі (Ф. Д. *Гурэвіч*, М. У. *Малеўская*, К. В. *Паўлава*), гісторыі славян (І. П. *Русанава*, Б. А. *Рыбакоў*, Г. Ф. *Салаўёва*, Э. А. *Сымановіч*, П. М. *Трацякоў*), гісторыі ўсходнеслав. плямён і гарадоў паўн. Беларусі (Л. В. *Аляксееў*, З. М. *Сяргеева*), помнікі манументальнай архітэктуры (І. М. *Хозераў*, Вал. А. *Булкін*, М. М. *Варонін*, М. К. *Каргер*, П. А. *Рапапорт* і інш.). Археолаг В. В. *Сядоў* прапанаваў тэорыю субстратнага паходжання беларусаў, паводле якой элементы бел. народнасці склаліся ў выніку славянізацыі балцкага насельніцтва Верхняга Падняпроўя і Падзвіння і змешвання славян, якія прыйшлі сюды, з балтамі (адбывалася з 7—8 да 13 ст.). Спецыялісты розных прыродазнаўчых і тэхнічных навук вывучалі археал. матэрыялы метадамі дэндрахраналогіі (Б. А. Колчын, Н. Б. Чарных, П. А. Русаў), металаграфіі (С. А. Каднікаў, Г. В. Купчанка, М. Ф. *Гурын*), спектральным і хімічным (Ю. Л. Шчапава, Д. У. Навумаў, Т. С. *Скрытчанка*). Выкарыстоўваліся метады сумежных навук: палеабатанікі (А. В. Кір'янаў, Н. А. Кір'янава, З. Л. Дземідовіч), палеазаалогіі (В. І. *Цалкін*, Е. А. Цэпкін, В. В. *Шчаглова*, Н. П. Александровіч), палеапаталогіі (Л. М. Казей), антрапалогіі (Т. І. *Аляксеева*, В. В. *Бунак*, І. І. *Салівон*, І. У. *Чаквін*).



Жаночыя ўпрыгожанні з курганнага могільніка Гадзілавічы.

Дасягненні сав. археолагаў у вывучэнні мінулага Беларусі абагульнены ў калектыўных працах «Нарысы па археалогіі Беларусі» (ч. 1—2, 1970—72), «Беларуская археалогія» (1987). Бібліяграфія па археалогіі сабрана ў кнігах «Бібліяграфія па археалогіі Беларусі і сумежных краін» С. А. Дубінскага (1933), «Археалогія Беларусі: Бібліягр. паказ. (1932—1975)» Т. М. Каробушкінай (1988).

*В. В. Гетаў, Г. В. Штыхаў.*

# НУМІЗМАТЫКА

Спецыяльны кірунак гіст. даследаванняў, які займае прамежкавае становішча паміж археалогіяй і гісторыяй, вывучае гісторыю грашовавагавых сістэм розных эпох і краін, характар іх узаемаадносін у працэсе эканамічных, палітычных і культурных кантактаў этнасаў і дзяржаў, грашовае абарачэнне і яго ўзаемасувязі з таварным рынкам, арганізацыю і тэхніку манетнай вытворчасці, станаўленне і эвалюцыю манетнай справы, грашовыя рэформы, працэсы тэзаўрацыі скарбаў і іх прычыны. Тэрмін «нумізматыка» (лац. numismatica збор, калекцыя манет ад nummus, numisma манета) узнік ў сярэдневяковай Еўропе. Блізкімі да нумізматыкі з'яўляюцца дысцыпліны, звязаныя з даследаваннем медалёў, жэтонаў і плакетак (медальернае мастацтва), ордэнаў і значкоў (фалерыстыка), папяровых грошай *(багістыка)* і прымітыўных даманетных сродкаў грашовага абарачэння (тавара-грошы). Асн. крыніцай вывучэння з'яўляюцца манеты і комплексныя манетныя скарбы, матэрыялы і інструменты манетнай вытворчасці, гіркі для ўзважвання манет. Матэрыяламі нумізматычных даследаванняў, без якіх немагчыма дасягнуць дакладных вывадаў, з'яўляюцца звесткі летапісных і актавых дакументаў, даследаванняў і прац па археалогіі, генеалогіі, этнаграфіі, геральдыцы, сфрагістыцы, метралогіі, мовазнаўству, эпіграфіцы, палеаграфіі, мастацтвазнаўству, гіст. геаграфіі, палітычнай эканоміцы і гісторыі. Методыка сучаснай нумізматыкі грунтуецца на прынцыпе кампаратыўнасці для параўнання штэмпеляў і тэхнікі манетнай вытворчасці розных краін, супастаўлення эмісійнага манетнага датавання з стратыграфічнымі і дэндралагічнымі данымі археалогіі, з агульнагіст. храналогіяй, супастаўлення рэальных манет з упамінаннем сродкаў грашовага абарачэння, плацяжу і накаплення ў пісьмовых крыніцах і інш. Параўнальны аналіз штэмпеляў дазваляе вызначыць ступень інтэнсіўнасці і масавасці выпускаў манетных серый, іх храналаг. паслядоўнасць нават тады, калі на манетах адсутнічае дата чаканкі. Картаграфаванне манетных знаходак ізатопным, гама- і нейтронна-актывацыйным аналізамі, з дапамогай камп'ютэрнай тэхнікі дазваляе вызначыць арэал і храналогію існавання манет, прасачыць шляхі не толькі ўнутраных, але і міжнародных гандлёвых, культурных і палітычных сувязей, датаваць іх узнікненне, росквіт і заняпад у розныя перыяды і часы, калі манеты функцыяніравалі як сусветныя грошы за межамі сваёй радзімы. Супастаўленне метралагічных характарыстык манет без вызначанай на іх вартасці з сучаснымі ім пісьмовымі крыніцамі дае магчымасць выявіць наміналы.

Станаўленню нумізматыкі як навукі папярэднічаў працяглы перыяд збіральніцтва манет, вядомага з антычных часоў. У Зах. Еўропе збіральніцтва пашырана з 14—15 ст. у Расіі на Беларусі — з 2 пал. 17 ст. Ад механічнага калекцыяніравання помнікаў грашовага абарачэння пачынаецца працэс шырокага гіст., эканамічнага, метралагічнага, мастацтвазнаўчага аналізу з выкарыстаннем пісьмовых і археал. крыніц, развіваецца нумізматыка як навука. Заснавальнік навук. нумізматыкі І. Экель выдаў у Вене ў 1792—98 працу ў 8 тамах «Навука пра старажытныя манеты». У Расіі першыя спробы аналітычнага асэнсавання нумізматычных звестак вядомы з канца 18 ст. У 1846 створана Археалагічна-нумізматычнае т-ва, у 1859 заснавана Археалагічная камісія (Пецярбург), якая сістэматычна рэгістравала нумізматычныя помнікі краіны, размяркоўвала іх па музеях, прадавала прыватным асобам або перадавала на пераплаўку ў манетныя двары (манеты 16—19 ст.). З 1988 працуе Маскоўскае нумізматычнае т-ва, у 1919—29 рэгістрацыю скарбаў праводзіла Камісія па нумізматыцы і гліптыцы Дзярж. (да 1926 — Расійскай дзяржаўнай) акадэміі гісторыі матэрыяльнай культуры, пазней — рэспубліканскія АН і музеі. У наш час найб. нумізматычныя калекцыі маюць Дзярж. Эрмітаж (Ленінград) і Дзярж. гіст. музей

(Масква). Каардынуе нумізматычныя даследаванні і кіруе імі Нумізматычная камісія пры Нацыянальным камітэце гісторыкаў СССР.

На Беларусі ў 16—18 ст. вядомы нумізматычны збор Радзівілаў (Нясвіж). У 1-й пал. 1820-х г. значная калекцыя манет належала графу М. П. Румянцаву. Сярод скарбаў былі гомельскія 1821 (польскія манеты 1620-х г.) і 1822 (манеты Арабскага халіфата 9—10 ст.), магілёўскі 1822 (арабскія манеты 8—9 ст.), віцебскі, тракайскі. У 1825 толькі усх. аддзяленне збору Румянцава налічвала 950 манет, у 1828 грэчаская частка антычнага аддзялення — 524 манеты. У 1831 уся гэтая калекцыя трапіла ў казённае ведамства (Пецярбург), у 1861 перавезена ў Маскву і склала аснову Румянцаўскага музея. У 1834 І. Ф. Паскевіч, які купіў у Румянцавых г. Гомель, таксама пачаў збіраць манеты. У 1840—60-я г. ў Віленскай і Мінскай губ. буйным збіральнікам быў граф Я. П. Тышкевіч, які перадаў 3072 манеты ў створаны па яго ініцыятыве *Віленскі музей старажытнасцей*, адзін з аддзелаў якога складаўся з калекцый медалёў і манет кожнай дзяржавы паасобна. Значныя зборы ў 1880—90-я г. ў Віленскай губ. належалі Марачэўскаму ходзіць да музеяў, створаных у 1870—80-я г. пры статыстычных камітэтах Віленскай, Мінскай, Гродзенскай, Віцебскай і Магілёўскай губ. Багатыя нумізматычныя калекцыі зберагалі *Віцебскі царкоўнаархеалагічны музей, Мінскі царкоўна-археалагічны музей,* Бел. дзяржаўны музей у Мінску (створаны на аснове гэтых калекцый, меў 14 тыс. манет, з іх 11 тыс. са скарбаў, знойдзеных на Беларусі), *Віцебскі абласны краязнаўчы музей, Гомельскі абласны краязнаўчы му-*



М. П. Румянцаў (1754—1826).



ИМПЕРАТОРСКАГО ДВОРА
ИМПЕРАТОРСКАЯ АРХЕОЛОГИЧЕСКАЯ КОММИССІЯ
Октября

Въ Минскій Музей.

ИМПЕРАТОРСКАЯ Археологическая Коммиссія, ... [illegible]

За Предсѣдателя Коммиссіи,

Товарищъ его

Дакумент на перадачу манетнага скарбу з в. Таль (Любанскі р-н) Мінскаму музею. 1900.



Его Сіятельству,
Господину Минскому Губернатору.

РАПОРТЪ.

[illegible]

№ 7743

Дакумент на перадачу манетнага скарбу з в. Бывалькі (Лоеўскі р-н) мінскаму губернатару. 1903.



М. В. Д.

[illegible]

Дакумент на перадачу манетнага скарбу з в. Крыўск (Буда-Кашалёўскі р-н) Магілёўскаму статыстычнаму камітэту. 1901.

(Вільна), уладальніку маёнтка Хожава Вілейскага пав., у пач. 20 ст.— Брадоўскаму (Вільна). У 1870—90-я г. на Міншчыне актыўнымі збіральнікамі нумізматычнага матэрыялу былі Г. Татур (частка калекцыі трапіла ў Віленскі бел. музей, створаны ў 1921) і Э. Чапскі, на Гродзеншчыне — М. Авенарыус, святар Міхайлоўскі, Флеры, К. В. Балсуноўскі, аптэкар Шпор, М. Федароўскі (манеты 12—17 ст. з могільнікаў вёсак Нача, Апонаўцы, Казляны і інш.), З. Глогер і інш., на Віцебшчыне — М. Кусцінскі, П. Плятар, Бергнер, Валадковіч (на аснове іх калекцый быў створаны музей В. П. Федаровіча), на Магілёўшчыне і Гомельшчыне — Е. Р. Раманаў. У канцы 19 ст. рэгістрацыя і збор манетных скарбаў паступова пера*зей, Магілёўскі абласны краязнаўчы музей, Гродзенскі гісторыка-археалагічны музей*, зборы якіх загінулі ў гады Вял. Айч. вайны. У пасляваенныя гады адноўлены музеі і папоўнены іх фонды. У іх сабрана і зберагаецца больш за 450 манетных скарбаў з больш як 100 тыс. манет розных эпох. Найб. буйныя нумізматычныя зборы ў Бел. дзярж. музеі і Нумізматычным кабінеце БДУ. Упершыню нумізматыку Беларусі вывучаюць студэнты гіст. факультэта БДУ, пішуць курсавыя і дыпломныя працы па гісторыі грашовага абарачэння. На Беларусі навук. нумізматыка адна з самых маладых гіст. дысцыплін. Пачынальнікамі яе былі П. *Харлампові*ч, *Ю. Ядкоўскі* і М. М. Шчакаціхін. Актыўнае развіццё нумізматычных даследаванняў

пачалося ў 1960-я г. Паявіліся значныя працы і публікацыі бел. даследчыкаў, прысвечаныя вызначэнню канкрэтных сродкаў манетнага абарачэння рынкаў Беларусі ў розныя перыяды яе гісторыі, складанню вопісаў выяўленых скарбаў і асобных манет, перыядызацыі гісторыі грашовага абарачэння на тэр. рэспубліцы з 1 ст. н. э. да цяперашняга часу. Вызначаны асн. этапы развіцця грашовага абарачэння.

Перыяд рымскага дэнарыя (канец 2 — пач. 3 ст. н. э.).


М. В. Д.
МИНСКОЕ ГУБЕРНСКОЕ ПРАВЛЕНІЕ.
Отдѣленіе I
Столъ I
[illegible] 1904 г.
№ [illegible]
г. Минскъ.

Въ Минскій Губернскій Статистическій Комитетъ.—

Губернское Правленіе имѣетъ честь препроводить при семъ въ Статистическій Комитетъ представленныя Игуменскимъ Уѣзднымъ Исправникомъ при рапортѣ отъ 29 декабря 1904 г., за № 2564, — [illegible] серебряныхъ монетъ, найденныхъ крестьянкою с. Капланцы, Погостской волости [illegible] Гринько.—

За Вице-Губернатора,
Старшій Совѣтникъ [illegible]

Дакумент на перадачу манетнага скарбу з в. Капланцы (Бярэзінскі р-н) Мінскаму губернскаму статыстычнаму камітэту. 1904.

Манеты прадстаўлены пераважна сярэбраным *дэнарыем* і менш медным *сестэрцыем* імператарскага Рыма. Выяўлены адзінкавыя знаходкі манет Баспора, Фракіі, пталамееўскага Егіпта. Большасць дэнарыяў выяўлена на тэр. Брэсцкай і Гродзенскай абл., магчыма, таму, што тут праходзіў участак т. зв. «бурштынавага шляху», які злучыў Рым з берагамі Балтыкі, спрыяў распаўсюджанню часткі чаканнага серабра на сумежныя тэрыторыі. Эканамічны і палітычны крызіс Рымскай імперыі спыніў паступленне гэтых манет.

Перыяд куфіцкага дырхема (9—10 ст.). Пасля значнага перапынку ў манетным абарачэнні на тэр. Русі амаль у 6 ст. пачалося паступленне вял. сярэбранай манеты Арабскага халіфата — куфіцкага *дырхема*, які захапіў абсалютную манаполію ў старажытнарускім грашовым абарачэнні. Яго фрагменты па стараж. пісьмовых крыніцах Русі вядомы пад назвамі яе першых грашовых адзінак — *куна, разана, нагата, вевярыца.* Да пач. 10 ст. паявіліся першыя перайманні дырхема ўсх. і ўсх.-слав. паходжання. На Беларусі скарбы гэтых манет сустракаюцца пераважна ў Падняпроўі і Падзвінні на шляху «з варагаў у грэкі». Заняпад выкарыстання дырхема пачаўся ў выніку спустошанасці радовішчаў серабра ў краінах Усходу, паглыбіўся феад. раздробленнем халіфата і выхаду яго з ліку сусветных гандлёвых дзяржаў.

Перыяд заходнееўрапейскага дэнарыя (канец 10 ст.— 1060-я г.). Дырхем у грашовым абарачэнні Зах. зямель Русі быў заменены сярэбраным дэнарыем. Спарадычнае паступленне яго ў канцы 10 ст. стала рэгулярным з пач. 11 ст. На тэр. паўн. Русі дырхем завозіўся да канца 1-й чвэрці 12 ст., паўд. Русі — да 2-га дзесяцігоддзя 11 ст., зах. землі — да сярэдзіны 1060-х г. (найб. у Падняпроўі і Падзвінні). Заняпад манетнага імпарту абумоўлены феад. драбленнем дзяржаў Зах. Еўропы і павелічэннем колькасці манетных двароў, што выклікала памяншэнне ўтрымання серабра ў манеце. Парушаецца вагавая і якасная аднастайнасць дэнарыя. З дэнарыем актыўна працягваў абарачацца дырхем, спарадычна сустракаюцца залатыя *солід, намісма*, сярэбраны *міліярысій* і медны *фоліс*. Знойдзены і ўласна рускія манеты — *златнік* і *срэбранік*.

Безманетны перыяд (2-я пал. 11—13 ст.) характэрны наяўнасцю ў абарачэнні *зліткаў плацежных* з серабра (зрэдку золата) пэўных форм і масы і адсутнасцю манет. На Беларусі вядомы зліткі заходнерускія, або літоўскія, кіеўскія (зніклі ў 13 ст.), наўгародскія (на тэр. Падняпроўя і Падзвіння). Выкарыстоўваліся, верагодна, у якасці буйных грашовых адзінак у гандлёвых аперацыях (маса 50—100 і 100—200 г). Мяркуюць, што дробным разменным наміналам былі тавар — грошы — *каўры*, некаторыя стандартныя вырабы рамеснай вытворчасці (часцей абменьвалі тавар на тавар).

Перыяд пражскага гроша (14—15 ст.). З сярэдзіны 14 ст., калі Беларусь увайшла ў склад Вял. кн. Літоўскага, грашовая гаспадарка пачала развівацца іншым у адрозненне ад агульнарускага шляхам. Разам з заходнерускімі і наўгародскімі зліткамі, што бытавалі, у абарачэнне ўваходзяць сярэбраныя літоўскія дэнарыі 14—15 ст. У Чэхіі каля 1300 пачалася эмісія *гроша пражскага*, які хутка стаў міжнароднай манетай, аб чым сведчаць шматлікія манетныя скарбы (на Беларусі найб. у Падняпроўі), пісьмовыя крыніцы 1337, 1378—1419. Абарачаліся таксама медныя *пулы*, сярэбраныя дырхемы Залатой Арды, сярэбраныя *паўгрошы* Польшчы, *шылінгі* Лівонскага ордэна, залатыя *дукаты* Венгрыі і *ноблі* Англіі. Заняпад пражскага гроша быў выкліканы гусіцкімі і міжусобнымі войнамі ў Чэхіі.

Перыяд канца 15 — сярэдзіны 17 ст. З канца 15 ст. Вял. кн. Літоўскае выпускае сярэбраныя дэнарый, паўгрош, пазней *грош, два грошы, тры грошы*, шастак, *паўталер, талер* і дукат. Зрэдку ў абарачэнні сустракаюцца манеты Польшчы канца 15 — 1-й чвэрці 16 ст., у 1520 — 40-я г.— паўгрошы і грошы




Нумізматычны кабінет. З французскай гравюры канца 18 ст.

Сілезіі і Прусіі. З утварэннем Рэчы Паспалітай (1569) з канца 1570-х г. упершыню пачалася грашовая эмісія з білону солідаў, што прыйшлі на змену паўгрошу. Да пач. 17 ст. ў абарачэнні паявіліся білонны *паўтарак* і сярэбраны *орт*, сярэбраныя дэнарый Венгрыі і *капейка* Расіі, у 1620-я г.— *маркі* і васьмішылінговікі Даніі, з канца 1-й чвэрці 17 ст.— білонныя соліды і *драйпёлькеры* Шведскай Прыбалтыкі, Прусіі, Брандэнбурга, залатыя і сярэбраныя дукаты і талеры Нідэрландаў і інш. заходнееўрап. дзяржаў. У 1581—1621 асноўнымі манетамі ў грашовым абарачэнні Рэчы Паспалітай былі соліды і драйпёлькеры.

Перыяд 2-й пал. 17 — канца 18 ст. Гэты перыяд адзначаны эканам. і паліт. крызісам Рэчы Паспалітай. У 1659—66 першы на Бела-

русі *Брэсцкі манетны двор* выпускаў медныя соліды, крэдытныя 30-грашовікі *(злотыя, тымфы)*. Пасля перапынку ў рабоце манетных двароў пачалася чаканка паўнацэнных манет. У канцы 17 ст.— пач. 1780-х г. грашовыя эмісіі вяліся ў вотчыне каралёў Рэчы Паспалітай — Саксоніі, у сярэдзіне 1760 — сярэдзіне 1790-х г.— у Варшаве. У 1706—07 *Гродзенскі манетны двор* выпусціў апошнія літоўскія манеты — траяк і шастак, у 1793, верагодна, польскі талер. У канцы 1660-х г. спынілася паступленне прыбалтыйскага білону, раней — білону Прусіі і Брандэнбурга. Зменшыўся ўвоз дуката і талера. З падзелам Рэчы Паспалітай (1772, 1793, 1795) паступова ўзмацняецца абарачэнне рускіх манет.

Перыяд канца 18 ст.— 1917. Далучэнне Беларусі да Расійскай імперыі (1795) падпарадкавала грашовы рынак агульнарасійскаму, хоць пэўны час ён захоўваў свае спецыфічныя рысы. У пач. 19 ст. працягвалася абарачэнне польска-літоўскіх манет 17—18 ст. Прыток талераў і дукатаў Нідэрландаў спадае ў 1810-я г., прускага серабра — у 1830-я г. У 1812 на бел. рынку абарачаліся медныя і сярэбраныя наміналы герцагства Варшаўскага. З заснаваннем Каралеўства Польскага (1815) у складзе Расіі *Варшаўскі манетны двор* пачаў выпуск традыцыйных польскіх наміналаў (грошы, злотыя) з медзі, білону, серабра і золата. У 1831 паявіліся *манеты «мяцежныя»*. Пасля задушэння польскай рэвалюцыі ў Варшаве і Пецярбургу пачалася эмісія *манет двухмоўных* з наміналамі ў капейках, рублях, грошах і злотых. У сярэдзіне 1850-х г. адбылося поўнае зліццё грашовага абарачэння Беларусі з агульнарускім. Першая сусветная вайна стала прычынай глыбокіх крызісных з'яў у фінансах Расіі. У 1916 спынены выпуск медных і сярэбраных манет (у золаце апошняя чаканка праведзена ў 1911). Рэзка ўзраслі папяровыя эмісіі, таму рэальная пакупная здольнасць папяровага рубля ў пач. лютага 1917 была роўная 25 капейкам. Часовы ўрад узмацніў фінансавы крызіс, павялічыўшы ў 8 разоў іх выпуск; вартасць рубля ў кастр. 1917 адпавядала 6 капейкам. На Беларусі ў манетным абарачэнні, акрамя расійскіх выпускаў, з 1916 былі жал. *боны германскіх акупацыйных войск 1916*.

Савецкі перыяд. У першыя гады Сав. улады ў абарачэнні заставаліся грашовыя выпускі царскай і буржуазнай Расіі, да якіх далучыліся папяровыя эмісіі РСФСР 1918, 1920. Пакупная здольнасць рубля ў 1921 адпавядала 0,0059 капейкі. На тэр. Зах. Беларусі (да 2.11.1939) абарачаліся польскія манетныя і папяровыя эмісіі. Пасля ўтварэння СССР (1922) грашовай рэформай 1922—24 утворана сав. грашовая сістэма.

*В. Н. Рабцэвіч.*

# А

**АБАКУ́МЫ,** курганны могільнік радзімічаў каля в. Абакумы Лоеўскага р-на. За 0,7 км на З ад вёскі, ва ўрочышчы Кардон. 26 курганоў выш. 0,5—1,3 м, дыям. 4—5 і 12—13 м. У 1965 даследаваны экспедыцыяй Інстытута археалогіі АН СССР, раскапаны 2 курганы, у 1977 абследаваў М. І. Лашанкоў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне галавой на З на гарызонце на попельнай праслойцы, вакол якой «вогненнае кальцо» — рэшткі спаленай агароджы. Знойдзены фрагменты керамікі 12 ст.

*Літ.:* 324, 699, 981. *Г. Ф. Салаўёва.*

**АБАРО́НЧЫЯ ЗБУДАВА́ННІ,** штучныя перашкоды, прызначаныя для доўгатэрміновай абароны населенага пункта ці пэўнай тэрыторыі ад праціўніка. Уключаюць земляныя валы з навальнымі канструкцыямі (вастраколы, зрубы-гародні) і ўнутрывальнымі субструкцыямі з дрэва (зрубы, тарасы) або каменю, сухія і абводненыя равы, драўляныя, мураваныя і камбінаваныя (фахверк) сцены, вежы з абламамі, байніцамі і машыкулямі, бастэі, брамы з герсамі і пад'ёмнымі мастамі-ўзводамі, барбаканы, бастыёны, равеліны, замкі і інш. Першыя А. з. на тэр. Беларусі пачалі ўзводзіць у раннім жал. веку (7 ст. да н. э.— 4—5 ст. н. э.) пераважна на гарадзішчах. Паступова ўскладняліся ад простых драўляных агароджаў па краях гарадзішчаў да шматрадных драўляна-зямельных умацаванняў. У раннефеадальны перыяд (9—13 ст.) з развіццём гарадоў асн. відам А. з. сталі равы, валы, драўляныя сцены і вежы (Полацк, Тураў, Віцебск, Мінск і інш.). У 12 ст. паявіліся муравана-плінфавыя сцены і вежы з выкарыстаннем у муроўцы валуноў (Гродна). З пераходам да тактыкі прамога штурму і аблогі ў 13 ст. сфарміравалася новая сістэма абароны горада, аснову якой складала шмат'ярусная драўляная або мураваная вежа-данжон у драўляным ці мураваным замку (гл. *Камянецкая вежа, Навагрудскі замак, Гродзенскі Стары замак, Тураўская вежа* і інш.). У 14 ст. будавалі мураваныя замкі тыпу нямецкіх кастэляў (у Лі-



Да арт. **Абарончыя збудаванні.** Супрасльская царква-крэпасць пач. 16 ст.



Да арт. **Абарончыя збудаванні.** Байніцы Камайскага касцёла пач. 17 ст.

дзе, Крэве, Медніках, а ў канцы 14 — пач. 15 ст. ў Гродне, Навагрудку, Оршы). З сярэдзіны 16 ст. з узмацненнем агнястрэльнай зброі на Беларусі ўзнікла бастэйная (Геранёны, Мядзел), пазней бастыённая фартыфікацыя (Заслаўе, Нясвіж, Слуцк, Глуск, Быхаў, Каролін пад Пінскам і інш.), удасканальваліся традыцыйныя драўляна-земляныя і мураваныя А. з. У Віцебску, Полацку, Магілёве, Слуцку, Брэсце, Рэчыцы і інш. утворана некалькі ліній абароны, якія ахоплівалі цэнтр горада і пасады. У 16—18 ст. абарончыя прыстасаванні мелі многія грамадзянскія (ратушы, сядзібы, дамы-крэпасці) і культавыя (храмы-крэпасці) збудаванні. У 19 ст. ўзніклі фортавыя А. з. з вынесенымі на 1—2 км наперад ад цэнтр. ўмацавання фартамі. У 1-й пал. 20 ст. ствараліся ўмацаваныя раёны і палосы абароны.

*Літ.:* 949, 1200, 1201, 1280.

*М. А. Ткачоў.*

**АБІДАВІЧЫ,** група археал. помнікаў каля в. Абідавічы Быхаўскага р-на, на левым беразе Дняпра.

Гарадзішча ранняга этапу зарубінецкай і калочынскай культур (2 ст. да н. э.— 3 ст. н. э.). За 3 км на ПнЗ ад вёскі і 100 м на Пн ад урочышча Чырвоная горка. Пляцоўка падкованападобная, памерам 40×30 м, прымыкае да старога рэчышча, парасла лесам. З вонкавага боку ўмацавана 3 валамі вышынёй каля 1,5 м і равамі глыбінёй 1 м, шырынёй 5—8 м. Выявіў у 1963 У. М. Сівагракаў, даследаваў у 1966 Л. Д. Побаль. Культурны пласт каля 0,6 м. Знойдзены фрагменты ляпнога посуду (часткова штрыхаваныя), 2 венчыкі гаршка з дамешкамі жарствы ў гліне.

Селішча-1 1-га тыс. н. э. За 200—300 м на Пн ад гарадзішча на высокім беразе ракі. Даследавалі ў 1926 С. С. Шутаў, у 1960 Побаль і Я. І. Бібікаў. Знойдзена кераміка бронзавага веку і ляпная гладкасценная 6—9 ст.

Побач з селішчам каля 10 курганоў. За 0,5 км на Пд ад селішча знойдзены кальцыніраваныя косці.

Стаянка каменнага веку, селішча-2. За 1 км на Пд ад селішча-1, за ўрочышчам Чырвоная горка. Выяўлена ляпная кераміка 1—10 ст.

Бескурганны могільнік. За 400—500 м на Пд ад селішча-2. Пахавальны абрад — трупаспаленне. Датуецца 1-м тыс. н. э.

Ва ўрочышчы Чырвоная горка знойдзена скрэблападобная прылада працы эпохі *мусцье.*

*Літ.:* 895. *Л. Д. Побаль.*

**АБІДЗЕНСКІЯ ЭМАЛІ,** бронзавыя лунніцы, аздобленыя выемчатымі эмалямі (2—5 ст.), якія вырабляліся, як мяркуюць, у ювелірнай майстэрні на паселішчы Абідня каля в. *Адаменка* (Быхаўскі р-н). Для вырабу эмаляў выкарыстоўвалі рымскае шкло, перацёртае ў парашок, які потым плавілі і залівалі формы. Лунніцы маюць форму раўнабедраных трохвугольнікаў, у якіх верхні вугал служыў вушкам. Ніжнія вуглы завершаны круглымі гнёздамі для чырвонай эмалі. Кожны з вуглоў упрыгожваюць яшчэ 3 круглыя выступы-дыскі, адлітыя разам з лунніцай (у адтуліны дыскаў устаўляліся кольцы з тонкага дроту) або 3 раўнабедраныя трохвугольнікі, якія падкрэсліваюць геам. будову лунніцы. Сярэдзіна лунніцы таксама дэкарыравалася эмаллю, якой запаўнялі паглыбленне ў форме раўнабедранага трохвугольніка. Аналагічныя ўпрыгожанні знойдзены і на паселішчы *Тайманава* (Быхаўскі р-н).

*Літ.:* 903, 905.

*Л. Д. Побаль, М. М. Яніцкая.*

**АБІДНЯ,** комплекс археал. помнікаў *зарубінецкай культуры.* Гл. ў арт. *Адаменка* (Быхаўскі р-н).

**АБЛІГ,** аблікг, ліст абліг, залогавы або даўгавы запіс. У бел. дакументах найб. ранняе ўпамінанне



Да арт. **Абарончыя збудаванні.** Рэшткі ўнутрывальнай перакладной канструкцыі пач. 12 ст. на Мінскім замку. Раскопкі 1984.



Да арт. **Абарончыя збудаванні.** Навагрудскі замак з гравюры А. А. Ляшчынскага. Пач. 19 ст.

за 14.8.1585 (Вільня), апошняе — 29.12.1758 (Ушачы).

**АБО́Л** (грэч. abolos прут), 1) у Стараж. Грэцыі: а) тавар-грошы ў выглядзе чатырохграннага жал. прута, які складаў $^{1}/_{6}$ *драхмы*; б) вагавая адзінка серабра (0,73 г); в) медная манета — $^{1}/_{6}$ драхмы. 2) У Зах. Еўропе 2-й пал. 8—10 ст.— вагавая адзінка серабра (0,85 г), сярэбраная манета — $^{1}/_{2}$ *дэнарыя*. 3) У Польшчы 13 ст. вагавая адзінка золата (0,44 г). 4) У Зах. Еўропе 12—15 ст.— сярэбраная манета, у 16—18 ст.— білонная або медная манета ў $^{1}/_{2}$ дэнарыя; у Германіі, Нідэрландах і Скандынавіі часта называлася «шэрф» ці «хэльбелінг». 5) У Вял. кн. Літоўскім *намінал* у $^{1}/_{2}$ дэнарыя (*лотавая проба* $1^{3}/_{4}$, *лігатурная маса* 0, 365 г), чаканены *Віленскім манетным дваром* у 1545—47, 1554. 6) Сінонім паняцця «дробныя грошы». У бел. пісьмовых крыніцах 16 ст. А. называецца «*пенязем* меншым» або «паўпенязем».

*Літ.:* 1107, 1538, 1671, 1693.

*І. Ф. Масько.*

**АБПА́ЛЬВАННЕ** к е р а м і к і, адзін з найб. стараж. спосабаў апрацоўкі ганчарных вырабаў. На Беларусі вядома з часоў неаліту. З-за недасканалага цеста і нізкай тэмпературы (А. на кастры) вырабы атрымлівалі з нераўнамерным абпалам (розныя колеры паверхні аднаго і таго ж вырабу), з нізкай спякальнасцю чарапка, рыхлыя, порыстыя, няўстойлівыя да вільгаці. У часы ранняга сярэднявечча кераміку абпальвалі ў печах з тэмпературай да 700° С. Абпал таксама нераўнамерны, але з лепшай спякальнасцю чарапка, больш якаснае цеста. У 14—15 ст. удасканальваюцца печы, павышаецца тэмпература, і А. адбывалася больш раўнамерна. У 16—18 ст. з павелічэннем асартыменту керамічнай прадукцыі А. рабілі ў спец. горнах з тэмпературай да 900 °С. З 17 ст. разам з акісляльным шырока выкарыстоўвалі аднаўленчае А. (сіненне, чарненне, сівенне, тамленне, марэнне), у выніку чаго чарапок станавіўся больш вогнетрывалым.

*Літ.:* 671.

*В. М. Ляўко.*

**АБРА́ДЫ ПАХАВА́ЛЬНЫЯ,** гл. *Пахавальныя абрады.*

**АБРАЗА́ННЕ МАНЕ́Т,** механічнае памяншэнне (апілоўванне, абломліванне) законнай вагі манеты. Рабілася з мэтай прысваення часткі каштоўнага металу або для памяншэння манетнага кружка цяжкай манеты да вагавой нормы больш лёгкай новай манеты таго ж наміналу ў выніку стыхійнай рэакцыі рынку (гл. ў арт. *Каперніка-Грэшэма закон*). На Беларусі абарачаліся абрэзаныя арабскія *дырхемы* і *грошы пражскія*. У адрозненне ад *псавання манет* А. м. рабілася без ведама ўладальніка манетнага права і было супрацьпраўным дзеяннем.

**АБРАЗО́К,** і к о н к а, выява аднаго або некалькіх святых у выглядзе партрэта. На Беларусі вядомы з часоў прыняцця хрысціянства. Выраблялі з каменю, металу, косці. Насілі падвешанымі на шыі, іншы раз у мяшэчках. Знойдзены ў час археал. раскопак у Ваўкавыску, Мінску, Навагрудку, Пінску, Полацку, Тураве і інш. На каменным А. з Полацка (сярэдзіна 12 ст., памер 62×41 мм) рэльефная выява цара Канстанціна і царыцы Алены, якія трымаюць перад сабой 8-канцовы



Вострыканечнік і скрэблападобная прылада працы, знойдзеныя каля **Абідавіч.**



Да арт. **Абідзенскія эмалі.** Бронзавая падвеска-лунніца 3—4 ст. з чырвонай эмаллю з селішча-1 Адаменка.

крыж. А. Спаса Эмануіла, знойдзены ў Пінску, мае прамавугольную форму ніжняй і паўцыркульную верхняй частак; фігуры выступ верхняй часткі (з адтулінай для падвешвання) упрыгожаны візантыйскім крыжам і 4 кропкамі; асобныя яго часткі пазалочаныя; выява святога пагрудная, выканана ў высокім рэльефе, характар якога нагадвае ўзоры візантыйскай пластыкі эпохі неакласіцызму. На каменным А. з замчышча ў Мінску (канец 12 ст.— 1-я пал. 13 ст.) св. Мікола і Стафан выкананы ў рост, над імі — паясная выява Спаса Эмануіла з распасцёртымі рукамі; Мікола ў епіскапскім адзенні з евангеллем у левай руцэ, Стэфан у дыяканскім адзенні з кадзілам у правай руцэ. На падвесным бронзавым А. з Копысі выявы ў рост Барыса і Глеба, кожны з іх у правай руцэ трымае перад грудзямі 4-канцовыя крыжы, у левай — мячы ў ножнах; князі апрануты ў кафтаны, на галовах — высокія шапкі, на нагах — боты без абцасаў. Пласцінка ад трыпціха з Ваўкавыска (12 ст., памер 107×46 мм) зроблена з косці, на ёй змешчаны 3 пагрудныя выявы: зверху архангел Гаўрыіл або Міхаіл, пасярэдзіне, магчыма, Пётр, унізе — Юрый ці Пракопій; на адваротным баку — рэльефны 4-канцовы крыж з медальёнам на перакрыжаванні. У Мінску на замчышчы знойдзены двухбаковы серпенцінны А. (мяжа 12—13 ст.) з адтулінай для падвешвання, на адным яго баку паясная выява Маці Боскай тыпу Агіясарытысы ці Халкапратыйскай (абедзве яе рукі на левым баку, левая павернута далонню, правая — знешнім бокам), на другім — выява апостала Пятра. Такая выява сустракаецца ўпершыню ва ўсх.-слав. дробнай каменнай пластыцы. Вядомы 4 авальныя А. 13 ст. з алавяна-свінцовага сплаву, якія, магчыма, выкарыстоўвалі для ўпрыгожвання буйных прадметаў рэлігійнага культу. На адным з іх — Маці Боская тыпу Агіясарытысы, на другім — святы з раздвоенай барадой, з кнігай у руках; мяркуюць, што гэта відарыс Кірылы Тураўскага.

*Літ.:* 232, 1131.

*В. Г. Пуцко, Г. В. Штыхаў.*

**АБРА́МАВА,** археал. помнікі каля в. Абрамава Верхнядзвінскага р-на.




**Абол.** С т а р а ж ы т н а я  Г р э ц ы я: сярэбраныя паўабол (1) Эгіны (каля 650—600 гг. да н. э.) і двайны абол (2) 520 г. да н. э. ВКЛ: сярэбраны абол 1546 Жыгімонта II Аўгуста (3). Ц е ш ы н (герцагства), білонны абол 1653 Лізаветы Лукрэцыі (4).

Гарадзішча *днепра-дзвінскай культуры*. Мясц. назва Гарадзец. За 2 км на ПдЗ ад вёскі, у лесе. Пляцоўка памерам 40×35 м на ўзгорку выш. 5—6 м. Умацавана 3 кальцавыміваламі выш. 2,3 м і равамі глыб. 2,4 м, разамкнёнымі ў паўн. ч. для ўваходу на гарадзішча. Выявіў і даследаваў у 1966 К. П. Шут, даследаваў у 1979 В. І. Шадыра. Раскапана 150 м² плошчы, зроблена прарэзка валоў. Культурны пласт 0,8—1,2 м. Выяўлены рэшткі наземных пабудоў слупавой канструкцыі, абгарэлыя бярвёны абарончых збудаванняў. Знойдзены фрагменты домніц, каменныя зерняцёркі, жал. наканечнікі стрэл, шылы, некалькі касцяных рэчаў, слоікападобны посуд, фрагменты посуду з сеткападобным арнаментам. Датуецца канцом 1-га тысячагоддзя да н. э.— 3—4 ст. н. э.

Курганны могільнік-1 *крывічоў*. За 500 м на Пн ад гарадзішча. 32 насыпы выш. 1 м, дыям. 5—7 м. Выявіў у 1966 Шут, даследавала 4 курганы ў 1974—75 З. М. Сяргеева. Пахавальны абрад — трупаспаленне на гарызонце галавой на Пн. Знойдзены ганчарны посуд. Датуецца 9—10 ст.

Курганны могільнік-2 крывічоў. За 600 м на З ад вёскі, побач з шашой Полацк — Асвея. Больш за 40 насыпаў выш. 0,5—1 м, дыям. 3—4 м. Выявіў у 1966 Шут, даследавала 9 курганоў у 1974—75 Сяргеева. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў падкурганных ямах галавой на З; пахаванні адзіночныя і парныя. Пахавальны інвентар — ганчарны посуд з лінейным арнаментам і неарнаментаваны, бранзалетападобныя скроневыя кольцы з завязанымі канцамі, вітыя і шырокасярэдзінныя пярсцёнкі, пасярэбраныя і залачоныя пацеркі, бронзавыя спіральныя пранізкі. Датуецца 11—12 ст.

*Літ.:* 1091, 1092, 1313, 1364.

*В. І. Шадыра.*

**АБРАМО́ВІЧ** (Abramowicz) Анджэй (н. 14.1.1926, г. Люблін, Польшча), польскі археолаг і гісторык. Д-р гуманітарных навук (1967), прафесар (1982). Скончыў Лодзінскі ун-т (1952). З 1949 працаваў у Археал. музеі ў Лодзі, з 1955 у Ін-це гісторыі матэрыяльнай культуры Польскай АН, нам. кіраўніка Аддзела археалогіі сярэдневяковай Польшчы. Даследуе гісторыю археалогіі пераважна 19 ст. У сваіх працах звяртаецца да польска-бел. сувязей, як частку польскай археалогіі разглядае дзейнасць А. Нарушэвіча, Т. Нарбута, З. Даленгі-Хадакоўскага, Я. і К. Тышкевічаў, А. Кіркора і інш., якія пісалі на польскай мове. Прасочвае ўзаемасувязі і ўзаемаўплывы археолагаў розных навук. цэнтраў. Паказаў значэнне дзейнасці *Віленскай археалагічнай камісіі* і *Віленскага музея старажытнасцей*, пісаў пра даследаванне стараж. помнікаў на Беларусі ў дарэвалюцыйны перыяд. Займаецца вывучэннем гісторыі стараж. мастацтва.

*Г. А. Каханоўскі.*

**АБРЭВІЯТУ́РА** (італьян. abbreviotura ад лац. brevis кароткі) у нумізматыцы, скарачэнне асобных слоў у манетных *легендах* з мэтай эканоміі месца ў *полі* манеты і пашырэння інфармацыйнага зместу. Дзве і больш А. на полі размяжоўваліся значкамі (кропка, двукроп'е, зорачка і г. д.). Распаўсюджана была ініцыяльная А. (злучэнне пачатковых літар слоў), звязаная ў большасці з тытуламі эмітэнтаў: R (лац. rex кароль), C (лац. comes граф), D (лац. dus герцаг, князь), IMP (лац. imperator імператар), EP S (лац. episcopus біскуп). Ужываліся А. і ў форме ўстойлівых лексічных абаротаў: D G (лац. dei gratia з божай ласкай), MON NOV (лац. moneta nova манета новая) і інш. Сустракаецца А. таксама на кафлі, зброі, посудзе.

*Літ.:* 1674. 1727.

**АБРЭ́З МАНЕ́ТЫ**, ніжняя (меншая) доля *поля* манеты, адмежаваная ад асноўнай часткі рыскай або дэкаратыўнай паласой. У А. м. звычайна размешчаны другарадныя надпісы або знакі (дата, адзнакі манет, двара і інш.).



**Абразок** «Канстанцін і Алена». Полацк, 12 ст.



Прарэзка вала на гарадзішчы **Абрамава.**




**Абутак:** поршні просты (1) і ажурны (2) 13 ст., просты (3) 16 ст.; чаравікі (4—7) 13 ст.



Скураны **абутак** 12—13 ст.: фрагменты поршня, чаравік, халява ад бота. Мінск.

**АБУ́ТАК.** Першым А. для чалавека была скура жывёлы, абкручаная вакол нагі. Паводле археал. знаходак вядомы А. скураны (поршні, чараві-

кі, боты) і плецены (лапці). Ад сучаснага адрозніваўся адсутнасцю цвёрдых дэталей (падэшва, заднік, абцас), шыты без дапамогі шавецкіх калодак навыварат і выпраўлены (абабіты) на калодках-каюгах. Да 13 ст. найбольш пашыраны поршні (пасталы) простыя і ажурныя, зробленыя з аднаго кавалка скуры (Брэст, Віцебск, Гродна, Мінск, Полацк, Слонім, Слуцк). Выраблялі іх з 4-вугольнага кавалка скуры памерамі 16—20×9—11 см і таўшчынёй 2,5— 3 мм. У простых поршнях па баках і ў наску праразалі дзіркі, у якія працягвалі скураны раменьчык або пянькову вяровачку (абору) для мацавання на назе. Сустракаюцца ў знаходках двухслаёвыя поршні (Віцебск), зробленыя з 6-вугольнага кавалка скуры. Ажурныя поршні выраблялі са скуры таўшчынёй 2 мм, іх насок меў здвоеныя прорэзі для раменьчыка, а бакавыя выкананы больш дасканала, даўж. падэшвы 22—23 см, шыр. 10 см — жаночыя і дзіцячыя. Летні А. пад назвамі «пасталы», «хадакі», «поршні» быў вядомы ў вясковага насельніцтва да пач. 20 ст. Чаравікі (вядомы з 11 ст.) кроілі з 2—3 кавалкаў скуры, якія сшывалі патайным швом паміж сабой і прышывалі да падэшвы вываратным спосабам; халявы закрывалі шчыкалатку нагі, мацаваліся раменьчыкам, прасунутым у прорэзі па верхнім краі, даўж. падэшвы 22—26 см. У 10—13 ст. з пераходам ад мяккіх тыпаў А. да цвёрдых з'явілася неабходнасць умацоўваць абутковую падэшву, якая стала шматслойнай. Першапачаткова вонкавы сандальны шоў хаваўся ў прарэз тоўстай скуры на падэшве. Пазней для яго хавання ў падэшву пачалі забіваць невялікія цвікі па ўсім перыметры. Аднак і ў гэтым выпадку найбольш хутка зношваўся падэшвавы напятак. Каб умацаваць яго, у 14 ст. пад напятак пачалі падкладаць дадатковыя скураныя пласцінкі. Колькасць пласцінак павялічвалася, і з цягам часу яны ператварыліся ў скураны наборны абцас, які часта ўмацоўвалі *падкоўкай абутковай.* У 13 ст. халявы чаравікаў арнаментавалі дарожкамі з праколатых дзірачак, вышывкай т. зв. крынамі (Віцебск, Полацк, Мінск), салярных знакаў (Віцебск, Полацк), геам. арнаменту (Мінск). На раскопках Віцебскага Верхняга замка знойдзена халява чаравіка з разным арнаментам, які нагадвае бел. нацыянальны. У 14 ст. на чаравіках, як правіла, арнамент адсутнічае. У 15—16 ст. у чаравіках паяўляюцца цвёрдая сцілка, шматслойная падэшва, абцас. У залежнасці ад якасці і фасону чаравікі 15—18 ст. называлі чорнымі (для простага насельніцтва), гусарскімі (для вайскоўцаў), «влоскімі» (італьянскімі), саф'янавымі, «коркавымі» (падэшва з простага або коркавага дрэва, абцягнутага скурай, Мінскае замчышча). Боты вядомы з 11 ст., мелі аднашвовыя (выш. 33—36 см) і двухшвовыя (выш. 13—15 і 18—25 см) халявы, шырыня іх раструба 16—17 см, каля шчыкалаткі — 11—14 см. Часам халявы ўпрыгожвалі вышыўкай ці арнаментам з геам. фігур і палосак, ціснёных па вільготнай скуры. Наскі мелі закругленую форму. Лапці (паводле пісьмовых крыніц вядомы з 10 ст. пад назвай «лычніцы») плялі з лыка, пянькі, лазовай і вязавай кары прамога і косага пляцення. Іх пераважна насілі вяскоўцы, у гарадах сустракаюцца рэдка.



Да арт. **Абутак. Ф**рагменты скураных чаравікаў 13 ст. Полацк.



**Чаравікі** 12—13 ст. Гродна.



**Абцугі** 12—13 ст. Полацк.

*Літ.:* 795, 1103, 1149, 1347, 1363, 1367.
*Л. У. Калядзінскі, С. В. Тарасаў.*

**АБЦУГІ**, прылада працы рамесніка (каваля, слесара, сталяра і інш.), прызначаная для трымання сыравіны ці вырабаў пры іх апрацоўцы. Складаюцца з 2 металічных стрыжняў, злучаных у месцы перакрыжавання шарнірам. Кавальскія А. вядомы з жал. веку: вялікія двухручныя (даўж. 24—55 см) і малыя (даўж. 15—25 см). А. ранняга сярэднявечча знойдзены ў Полацку, Мінску, Навагрудку, позняга — у Друі, Крычаве, Мазыры і інш. гарадах.

**АВЕНА́РЫУС** Мікалай Пятровіч [31.8 (12.9). 1834, г. Пушкін Ленінградскай вобл.— 4(17).7.1903], археолаг, краязнавец, дзеяч нар. асветы, педагог. Скончыў Галоўны педагагічны ін-т у Пецярбургу. Адзін з заснавальнікаў Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі (1864); у 1864—85 інспектар Александрынска-Марыінскага ін-та ў Варшаве. потым — Беластоцкага настаўніцкага ін-та. У 1885—90 раскопваў курганы ў Барысаўскім і Навагрудскім пав., каменныя магілы ў Бельскім і Беластоцкім пав. Сабраў 125 каменных сякер каля в. Эсьмоны на Магілёўшчыне, калекцыю свінцовых пломбаў са знакамі Рурыкавічаў у Драгічыне Надбужскім; апісаў яцвяжскія стараж. помнікі Віленскага музея. Аўтар артыкулаў па нумізматыцы, археалогіі, педагогіцы, пытаннях асветы. Пісаў творы для дзяцей.

*Тв.:* Дрогичин Надбужский и его древности // Древности Северо-Западного края. Спб., 1890. Т. 1, вып. 1.
*Літ.:* 6, 9, 10. *У. Ф. Ісаенка.*

**А́ВЕРС** (франц. avers ад лац. adversus павернуты тварам), правы (галоўны) бок манеты, медаля, банкноты. Гэта звычайна бок, на якім змешчаны партрэт манарха ці яго *манаграма* або імя. Пры іх адсутнасці А. вызначаецца па боку, на якім знаходзіцца герб або ўказваецца *намінал.* У сав. нумізматычнай літаратуры для манет 18—20 ст. А. вызначаецца галоўным чынам па гербе дзяржавы-эмітэнта, але ў шэрагу краін свету А. прынята лічыць бок манеты з партрэтнымі выявамі. А. *манет мемарыяльных* вызначаецца бокам з сюжэтнай выявай. У медалях вызначаецца як А. бок, што паведамляе аб нагодзе выпуску. Для банкноты А.— бок, які нясе на сабе герб і подпіс асоб, што адказваюць за выпуск. У ілюстрацыях А. аб'ектаў падаюцца злева ці зверху ад *рэверса.*

*Літ.:* 1699, 1726. *І. І. Сінчук.*

**АВЕ́СЦКІ МАНЕ́ТНЫ ДВОР.** Размяшчаўся ў г. Авеста (Швецыя). Выпускаў у 1788 *манеты-перайманні* медных *пяці капеек* з датаваннем 1764, 1778 і 1787 для забеспячэння плацежаздольнасці шведскай арміі на акупіраваных тэр. Расіі ў час руска-шведскай вайны 1788—90. У адрозненне ад сапраўдных рус. манет на іх *аверсе* і *рэверсе* былі каралеўскія (замест імператарскіх) кароны. іншыя абрысы дат; на аверсе манет 1787 — асаблівы малюнак двухгаловага арла, у *полі* манеты часцей за ўсё знак Екацярынбургскага манетнага двара — **ЕМ**, зрэдку адзнака двара адсутнічае.

*Літ.:* 1615, 1620.

**АГАРО́ДНІКІ,** Кусічы, паселішча *паморскай культуры* каля в. Агароднікі Камянецкага р-на. На паўд. ускраіне вёскі, на левым беразе р. Пульва (прыток Зах. Буга). Выявіла і даследавала 50 м² плошчы ў 1963 В. Б. Караткевіч. Культурны пласт 0,4 м. Выяўлены рэшткі жытла амаль прамавугольнай формы памерам 4,5×4 м. Па перыметры сцен захаваліся камяні-валуны, паглыбленыя ў культурны пласт на 0,4—0,5 м. З паўд.-ўсх. і паўд. бакоў жытла знаходзіліся 2 агнішчы дыям. каля 0,5 м, глыб. 0,35 і 0,15 м, запоўненыя камянямі і попелам. Мяркуючы па размяшчэнні камянёў, уваход у жыллё быў з У. Побач з пабудовай знаходзілася яма, запоўненая попелам. Знойдзены абломак каменнага таўкача, абломкі ляпнога посуду, сярод якіх фрагменты таўстасценных гаршкоў з храпавай паверхняй і прамымі венчыкамі, арнаментаванымі адбіткамі пальцаў. Датуецца 4—2 ст. да н. э. Трапляюцца глянцаваныя чарапкі, рэшткі ганчарнага посуду 10—12 ст.

*Літ.:* 827.

*В. С. Вяргей, В. Б. Караткевіч.*

**АГНІ́ШЧА,** прыстасаванне для разводзення і падтрымання агню, які служыў для абагрэву, прыгатавання ежы і абароны ад дзікіх жывёл. Рэшткі першых А. знойдзены на стаянках алдувайскага пітэкантрапа (усх. Афрыка, больш за мільён гадоў таму назад) і сінантрапа Чжоўкоўдзянь (Кітай, каля 300 тыс. г. назад), на Беларусі вядомы з эпохі верхняга палеаліту (*Бердыж, Юравічы*, 33—10 тыс. г. назад).

У гэты час А. паглыбляліся ў зямлю на 0,1—0,5 м, у разрэзе былі лінзападобныя, у плане акруглыя дыям. 1—2 м, рабіліся ў жытлах або па-за імі. Часам побач з А. ставілі каменныя пліты або абкладвалі сценку дробнымі камянямі, каб ахаваць агонь ад ветру. Пазней А. паглыбляліся ў зямлю на 1 м, мелі котлападобную форму ў разрэзе. Былі пашыраны на помніках эпохі неаліту, бронзавага і жал. вякоў, на помніках *банцараўскай культуры* існавалі побач з печамі-каменкамі, зніклі ў раннефеад. перыяд.

*У. П. Ксяндзоў.*

**АГНЯСТРЭ́ЛЬНАЯ ЗБРО́Я** ручная, лёгкая зброя, з якой страляюць кулямі. У Вял. кн. Літоўскім першая А. з. з'явілася на мяжы 14—15 ст., мела 8-гранную жал. рулю даўж. 25—50 см на доўгім і тоўстым драўляным ложы. У 15—16 ст. выкарыстоўваліся *гакаўніца* і больш лёгкая і кароткая за яе ручніца. У пісьмовых крыніцах Маскоўскай дзяржавы гакаўніца называлася пішчаляй затіннай, ручніца — пішчаляй ручной. На мяжы 16—17 ст. сталі ўжывацца мушкеты і аркебузы (выраблялiся ў Вільні). З канца 17 ст. ў войску Вял. кн. Літоўскага вядома новая зброя з крамянёвымі замкамі (кароткія карабіны, флінты). Да 18 ст. галоўнай зброяй пяхоты сталі кнотавыя мушкеты, конніца мела пісталеты і аркебузы.

*Літ.:* 1159.

*Г. М. Сагановіч.*



Пяць капеек 1787, выпушчаныя **Авесцкім манетным дваром.**



**Агнішча** падковападобнай формы з гарадзішча Васількоўка Лагойскага р-на.



Жалезнае крэсіва з селішча Адаменка.

**АДАМА́ЎКА,** курганны могільнік *дрыгавічоў* каля в. Адамаўка Рэчыцкага р-на. За 1,5 км на У ад вёскі. Было 70 насыпаў (не захаваліся). Даследаваў 19 курганоў у 1890 У. З. Завітневіч. Пахавальны абрад — трупапалажэнне галавой на З на гарызонце, у трох насыпах пахаванні ў ямах глыб. 0,7 м. Знойдзены віты пярсцёнак, пярсцёнкападобныя скроневыя кольцы, лунніцы, пацеркі, спражка, нажы, крэсіва, гліняныя гаршкі. Датуецца 11 — пач. 12 ст.

*Літ.:* 1340.

**АДА́МЕНКА,** комплекс археал. помнікаў *зарубінецкай культуры* каля в. Адаменка Быхаўскага р-на.

Селішча-1. За 0,5 км на У ад вёскі, на левым беразе р. Адаменка, ва ўрочышчы Абідня. Размешчана на мысе выш. 2—4 м, утвораным поймамі Дняпра і Адаменкі, пл. 5—6 га. Л. Д. Побаль абследаваў у 1960—67 каля 20—25% тэр. селішча. Выяўлена 29 паўзямлянак, рэшткі наземных слупавых жытлаў.

Паўзямлянкі прамавугольнай формы, пл. 7—16 м², заглыбленыя ў зямлю на 0,2—0,9 м, зрубнай канструкцыі, арыентаваныя з ПнЗ на ПдУ. Сцены з бярвення дыям. больш за 0,18 м. Агнішчы знаходзіліся ўнутры жытлаў або за іх межамі, часткова ў ямах глыб. 0,2 м, дыям. 0,75 м. Сярод знаходак грубаляпны і глянцаваны гліняны посуд, прасліцы, жал. сярпы, крыцы, нажы, крэсіва, шпількі, іголкі, тыглі, формы для адліўкі бронзавых упрыгожанняў, 6 падвесак з эмаллю (гл. *Абідзенскія эмалі*) і інш. Цікавыя знаходкі антычнага рымскага імпарту: манета Геты, выбітая ў 209—212 у г. Аўгуста-Траяна (цяпер балгарскі г. Філінопаль), чырвоная лакавая кераміка, залачоныя шкляныя пацеркі, рэшткі бронзавага посуду, фібулы і інш.

Селішча-2. На правым беразе Дняпра, паміж урочышчамі Абідня і Радышава гара, за 0,5—0,8 км на Пд ад селішча-1. Даўж. каля 0,5 км. Абследаваў у 1965 Побаль.

Селішча-3. За 0,5—0,7 км на Пд ад селішча-2. Памеры 200—300×50 м. Абследаваў у 1965 Побаль. На селішчах 2 і 3 знойдзена ляпная кераміка 1-га тысячагоддзя і кальцыніраваныя косці. Непадалёку выяўлены сляды бескурганных могільнікаў.

Бескурганны могільнік. Побач з селішчам-1, ва ўрочышчы Абідня. 12 пахаванняў з трупаспаленнем даследаваў у 1960—67 Побаль. Знойдзены гліняны посуд, падвескі, рымскія пацеркі, прасліца. Адносіцца да пачатковага перыяду існавання селішча.

Курганны могільнік. На правым беразе р. Адаменка, у лесе. Каля 10 курганоў. Раскапаў у 1964 адзін курган Побаль. Дыям.

5 м, выш. да 0,6 м. Сярод знаходак рэшткі ляпных пасудзін, апаленай гліны, камяні, попел. За 20—30 м ад кургана знойдзены спаленыя косці чалавека.

*Літ.:* 847, 895.

*Л. Д. Побаль, А. І. Ільюцік.*

**АДАНТАЛО́ГІЯ** [грэч. odus (odóntos) зуб + lógos навука], раздзел *антрапалогіі*, які вывучае зубную сістэму сучаснага і выкапнёвага чалавека ў эвалюцыйным, анатамічным і расава-генетычным планах. А. карыстаецца вымяральнымі і апісальнымі метадамі.



Адбойнік.



Работа адбойнікам.

Методыку вымярэння зубоў у этнічнай А. распрацавау англійскі вучоны Г. Флаўэр, які падзяліў расы на буйназубых (аўстралійцы, тасманійцы), драбназубых (еўрапейцы, індыйцы) і сярэднязубых (кітайцы, амерыканцы, індзейцы, малайцы). Методыка некаторых апісальных расавых прыкмет структуры зубоў прапанавана амерыканскім антраполагам А. Грдлічкам, сав. вучоны А. А. Зубаў удакладніў методыку і праграму даследаванняў. Метады А. дазваляюць выпрацаваць крытэрыі расавых і ўзроставых адрозненняў, рэканструяваць асноўныя заканамернасці расагенезу і стараж. міграцый чалавека.

*Літ.:* 444.

*Л. І. Цягака.*

**АДБО́ЙНІК,** прылада для апрацоўкі каменю. Прыкметамі А. лічацца сляды ад удараў у выглядзе шчарбін і ямак на яго пукатай рабочай паверхні. У палеаліце ў якасці А. выкарыстоўвалі рачную гальку, жаўлакі крэменю шара-, яйца- і пальцападобнай формы. У неаліце паявіліся А. з дзяржаннем, зробленым абіўкай на канцы крамянёвага жаўлака (у Краснасельскіх крэменеапрацоўчых майстэрнях мелі трохвугольную сегментападобную, поліэдрычную форму, даўж. 5—13, шыр. 3,5—11, таўшч. 2,1—8,5 см, масай 0,1—0,9 кг). Выкарыстоўвалі для расколвання крэменю, счэсвання з яго жаўлачнай коркі, вырабу нуклеусаў, адбіўкі адшчэпаў — загатовак для прылад працы.

*Літ.:* 249, 1070, 1071, 1073, 1177.

*В. Я. Кудрашоў.*

**АДЗЕ́ННЕ,** штучнае покрыва чалавечага цела; неад'емная частка матэрыяльнай культуры, якая, апрача утылітарных патрэб, выконвае







Узоры адзення жыхароў Браслава 9—12 ст. (1—2), Глыбоцкага р-на 11 ст. (3), в. Навінка Талачынскага р-на 11 ст. (4—5), Полацка 12 ст. (6), вілайне 13 ст. (7). Рэканструкцыя Л. У. Дучыц.

функцыі адрознення паводле полу, этнічнай, саслоўнай і інш. прыналежнасці. У шырокім сэнсе ўключае таксама *галаўныя ўборы, абутак, рукавіцы* і інш. Паводле археал. даследаванняў А. са скур звяроў вядома з часоў палеаліту. А. з тканіны стала вядома насельніцтву ў часы неаліту і бронзавага веку (адбіткі тканіны на гліняным посудзе). Па знаходках упрыгожанняў можна меркаваць, што А. жыхароў днепрадзвінскай і штрыхаванай керамікі культур нагадвала балцкі і зах.-еўрап. (гальштацкі) касцюм, мілаградскай культуры — касцюм скіфаў. З часоў Кіеўскай Русі знойдзены рэшткі льняных, пераважна белых, пяньковых, шарсцяных (Заслаўе, Мінск, Полацк, в. Псуя Глыбоцкага р-на, *Сакольнікі, Чарневічы*) і шаўковых (Гродна, Давыд-Гарадок, Мінск) розных колераў тканін. Асн. прадметам А. для мужчын і жанчын тых часоў была тунікападобная кашуля, якая мела круглы, чатырохвугольны або косы выраз каўняра, ён аздабляўся вышыўкай ніткамі, пацеркамі, бронзавымі пранізкамі (Браслаў, *Кублішчына*) або тасьмой (Гродна). Кашулі часта зашпільваліся фібуламі, гузікамі, завязваліся шнурком. Знойдзены жаночыя кашулі са стаячым шаўковым каўняром з вышыўкай *(Лісна).* Доўгая кашуля жанчын дапаўнялася спадніцай, панёвай, андаракам, пашытымі з 3—6 полак, часта адкрытыя спераду ці збоку, з рознакаляровай даматканай шарсцяной ці паўшарсцяной тканіны ў клетку або палоску. У мужчын кашуля дапаўнялася порткамі. Верхняе А. (світы, плашчы, вілайнэ, кажухі, шубы) насілі і мужчыны, і жанчыны. Яго шылі з цёплай тканіны (Мінск, Шо) або з аўчыны (кажухі) жоўта-карычневага, вохрыста-цаглянага, радзей белага колераў (Заслаўе, *Чаркасова).* На Пн і ў цэнтр. Беларусі мужчыны і жанчыны насілі наплечныя пакрывалы (накшталт латгальскіх вілайнэ) з шарсцяной і льняной клятчастай ці аднакаляровай сіняй ці цёмна-карычневай тканіны; па краях іх упрыгожвалі бронзавымі спіральнымі пранізкамі, вышыўкай (Мінск, *Укля*), махрамі (Глыбоцкі р-н). А. заўсёды падвязвалася поясам з тканіны, плеценым, скураным са спражкамі або фібуламі.

Упрыгожанні на А. мелі этнічныя адрозненні: крывічанкі насілі бранзалетападобныя, радзімічанкі — 7-прамянёвыя, дрыгавічанкі — пярсцёнкападобныя з зярнёнымі меднымі пацеркамі скроневыя кольцы. Знаць шыла А. з больш дарагіх, часта прывазных тканін, упрыгожвала яго вышыўкай залатымі ніткамі. каштоўнымі камянямі. У жаночых кашулях доўгія рукавы сцягвалі бранзалетамі. Паверх кашулі апраналі кароткую сукенку з шырокімі кароткімі рукавамі, падпяразаную залататканым поясам. Зверху пакрываліся доўгім плашчом, які зашпільваўся на правым плячы. Паводле этнаграфічных даных суседніх народаў і частковых археал. знаходак можна меркаваць пра існаванне фартухоў, камізэлек (уплыў літоўцаў), кофтаў і сарафанаў (ліваў і скандынаваў), доўгіх сукенак з доўгімі рукавамі (палякаў).

*Літ.:* 152, 325, 664, 1178.

*Л. У. Дучыц.*

**«АДЗІНКАВЫХ» ПАХАВАННЯЎ КУЛЬТУРА**, гл. *Прыбалтыйская культура.*

**АДКРЫТЫ ЛІСТ**, дазвол, афіц. дакумент, які выдаецца навук. ўстановамі на права правядзення даследчыкамі археал. разведак і раскопак. Усе самавольныя аматарскія даследы, звязаныя з пашкоджаннем помнікаў, забаронены. З 1971 у СССР дзейнічаў закон аб ахове помнікаў гісторыі і культуры, куды ўключаны і археал. аб'екты: стаянкі, гарадзішчы, селішчы, курганы, могільнікі, рэшткі архіт. і культавых збудаванняў, скарбы і інш. У Расійскай імперыі самавольныя раскопкі стараж. помнікаў былі забаронены царскім указам 1846. На Беларусі першы А.л. (грамату) атрымаў 14.12.1818 А. Чарноцкі (*Даленга-Хадакоўскі* З. Я.). Напісаны ён на пергаменце на рус., лацінскай і польскай мовах, падпісаны рэктарам Віленскага ун-та (зберагаецца ў Мінскім абласным краязнаўчым музеі ў Маладзечне).


Auspiciis Augustissimi et Potentissimi Imperatoris
ALEXANDRI I.
Caesarea Universitas Litterarum Vilnensis

**Адкрыты ліст,** выдадзены З. Даленгу-Хадакоўскаму.



**Адціскальнік.**

А.л. на права археал. разведак і раскопак выдаецца палявым камітэтам Ін-та археалогіі АН Расіі, на Беларусі — Ін-там гісторыі АН Беларусі пасля разгляду заяўкі. Палявы камітэт на працягу 2 месяцаў павінен даць сваё заключэнне: аформіць А.л. або, калі ёсць пярэчанні, абгрунтаваць сваю адмову. У А.л. ўказваецца прозвішча асобы, якая атрымала дакумент, тэрмін сапраўднасці яго, адміністрацыйны раён работ і пералік помнікаў, дзе мяркуецца правесці раскопкі. Перадаваць права разведак ці раскопак іншай асобе забараняецца. У залежнасці ад характару і маштабу работ выдаюцца А.л. некалькіх форм: А.л. формы 1 дазваляе даследчыку праводзіць любыя віды археал. раскопак і тапаздымку плана аб'екта; формы 2 дазваляе праводзіць разведку з частковым раскрыццём нязначных участкаў археал. помніка; формы 3 дае права разведак без правядзення земляных работ, паверхневага збору археал. матэрыялаў, здымкі плана і фатаграфавання аб'екта; формы 4 выдаецца на правядзенне экстранных выратавальных работ у зоне прамысл. будаўніцтва, пабудовы ГЭС і стварэнні вадасховішчаў, пракладцы дарог, каналаў і інш. А.л. прыкладаецца да справаздачы аб праведзеных даследаваннях.

*Літ.:* 4, 513, 596.

*Г. А. Кахановўскі, М. А. Ткачоў.*

**АДРЫЖЫН,** *гл. Пясчанае*

**АДЦІСКАЛЬНІК,** прылада для ручной апрацоўкі каменю. Матэрыялам для А. з'яўляліся камяні розных парод, рогі, косці, біўні. Прыкметамі А. з'яўляюцца шчарбіны ці ямкі на пукатай рабочай паверхні, якія ўзнікаюць пры націсканні на край загатоўкі. У палеаліце каменныя А. рабілі з плітак і галькі, спрацаваных нуклеусаў, адшчэпаў, зламаных прылад, касцяныя — з трубчастых касцей і зубоў жывёл. У мезаліце вядомы А. з крамянёвых шпянёў даўж. 6—7 см. У неаліце каменныя і касцяныя А. набываюць форму біканічных, прамавугольных і монанічных шпянёў чатырохвугольных ці круглых у папярочніку, даўж. 6—7 см, шыр. да 1—3 см, таўшч. да 0,7 см. Выкарыстоўваліся на стадыі тонкай апрацоўкі для выдалення дробных частак матэрыялу пры рэтушаванні каменных прылад працы.

*Літ.:* 249, 1071, 1073, 1177.

*В. Я. Кудрашоў.*




Работа касцяным **адціскальнікам.**

**АДШЧЭП,** назва асколкаў, адбітых *адбойнікам* ад кавалка крэменю або крамянёвага *нуклеуса* першабытным чалавекам каменнага і бронзавага вякоў. А. бываюць рознай формы і памераў з ударнай пляцоўкай, пукатасцю ад удару адбойнікам і 2 плоскасцямі: спінкай (са слядамі раней зробленых сколаў або без іх), брушкам (са слядамі ўдарнага злому). Выкарыстоўваліся першабытным чалавекам каменнага і бронзавага вякоў для вырабу прылад працы (нажы, сярпы) або былі адходамі пры *апрацоўцы крэменю.*

**АЗДЗЯЦІЧЫ,** археал. помнікі каля в. Аздзяцічы Барысаўскага р-на.

Гарадзішча ранняга перыяду *штрыхаванай керамікі культуры.* За 1 км на ПдЗ ад вёскі, на высокім карэнным беразе р. Бярэзіна. Займае мыс, утвораны глыбокімі ярамі, якія спадаюць у забалочаную пойму. Пляцоўка авальная 50×30 м, выцягнута з З на У. З усх. боку ўмацавана валам выш. каля 0,7 м і ровам глыб. 0,4—0,5 м, з Пн і Пд абмежавана ярамі. Выявіў у 1931 А. М. Ляўданскі, даследаваў у 1958 А. Р. Мітрафанаў 264 м² плошчы. Выяўлены рэшткі 2 жытлаў, заглыбленых у зямлю на 0,15—0,3 м, плошча аднаго 17, другога — 26 м². Знойдзены фрагменты ляпнога глінянага посуду, гліняныя праслíцы, грузікі, жал. наканечнікі кап'я, абломак нажа, малыя сярпы, рыбалоўны кручок.

Могільнік-1. За гарадзішчам, ва ўрочышчы Пяскі, побач з сучаснымі могілкамі. 50 насыпаў выш. 0,5—2,5 м, дыям. 6—8 м. У 1930 Ляўданскі даследаваў 4 насыпы. На грунце пад курганамі выяўлены вогнішчы. Знойдзены перапаленыя косці, ляпныя гаршкі, пашкоджаныя бронзавыя ўпрыгожанні, жал. спражкі.

Могільнік-2 дрыгавічоў. Датуецца 8—9 ст. 45 курганоў выш. 0,4—2 м, дыям. 5—7. Ляўданскі раскапаў 9 насыпаў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне галавою на ПнЗ. У жаночых пахаваннях знойдзены шкляныя і бронзавыя пацеркі, невял. скроневыя кольцы, жал. нож. Датуецца 11—12 ст.

*Літ.:* 785.

*А. Г. Мітрафанаў, Ю. А. Заяц. Г. В. Штыхаў.*



**Адшчэп.**




Археалагічныя помнікі **Азёры.** План.



Гліняны грузік з гарадзішча **Аздзяцічы.**

**АЗЕРЦЫ,** гарадзішча каля в. Азерцы Лепельскага р-на. За 200 м на У ад вёскі, на падоўжаным узгорку, абмежаваным з Пн і ПдЗ азёрамі. Пляцоўка роўная, памерам 70×55 м. Схілы гарадзішча ў іх верхняй частцы стромкія, у ніжняй — пакатыя. Даследаваў у 1972 А. Р. Мітрафанаў. Культурны пласт у агаленнях зах. і паўн. схілаў 1,3—1,4 м. У цэнтры пляцоўкі быў закладзены шурф памерам 0,5×0,25 м, культурны пласт тут 1,1 м, мае 2 гарызонты. У верхнім знойдзены фрагменты ганчарнага посуду, 2 невял. абломкі ляпных гаршкоў з жарствой у гліне, у ніжнім — рэшт-

кі ляпных гладкасценных пасудзін. Трапляюцца шлакі, абпаленыя камяні, косці жывёл. Належала плямёнам днепра-дзвінскай (не пазней 3—4 ст.), банцараўскай (6—8 ст.) культур, функцыяніравала і ў перыяд Кіеўскай Русі (10—13 ст.).

*А. Р. Мітрафанаў.*

**АЗЁРЫ,** стаянкі і селішчы каля в. Азёры Гродзенскага р-на. Першыя звесткі пра стаянкі вядомы з канца 19 ст. Стаянкі-2, 3, 4 і селішча выявіў і даследаваў у 1972, 1986 М. М. Чарняўскі, стаянку-1 выявіў у 1958 Л. С. Клейн.

Стаянка-1. На З ад вёскі, на паўн.-зах. беразе воз. Рыбніца на пясчаным плато выш. 5 м над узроўнем вады. Памеры 250×120 м. Культурны пласт разараны. Пераважная большасць знаходак — пласціністыя крамянёвыя вырабы (нажы, наканечнікі стрэл, канцавыя скрабкі, скоблі, бакавыя разцы і інш.) эпохі мезаліту, адзінкавыя рэчы бронзавага веку.

Стаянкі-2, 3, 4. За 0,8—1 км на Пд ад стаянкі-1, на адлегласці 0,2—0,5 км адна ад адной. Найб. значная з іх стаянка-4. Яе памеры 140×50 м. Культурны пласт да 0,5 м. Сярод знаходак шмат крамянёвых прылад працы, абломкі глінянага посуду сярэдняга і позняга этапаў *нёманскай культуры*, трапляецца кераміка бронзавага веку.

Селішча. За 100 м на ПдЗ ад стаянкі-4, на ўзгорку прыазёрнага балота. Памер 60×60 м, выш. 1,5 м. Культурны пласт да 0,5 м. Знойдзена ганчарная кераміка позняга сярэднявечча, перапаленыя камяні, нешматлікія расшчэпленыя крамяні.

На ПдЗ ад селішча, за вусцем ракі ўздоўж паўн. берага азёрнай затокі сустракаюцца стаянкі каменнага веку.

*Літ.:* 453. *М. М. Чарняўскі.*

**АЗЯРА́НЫ,** археал. помнікі каля в. Азяраны Рагачоўскага р-на. Вядомы з 1873.

Гарадзішча мілаградскай і зарубінецкай культур. На паўн. ускраіне вёскі, на ўзвышшы карэннага левага берага р. Друць. З У схіл гарадзішча стромкі і высокі (8—9 м над узроўнем вады ў рацэ). Пляцоўка ўвагнутая, усх. частка размыта вадой, памеры 27,5×18 м. З Пд, Пн і З умацавана 3 валамі (адзін выш. да 1,5 м, другі — да 0,9 м, трэці — да 0,7 м) і 2 равамі (глыб. 0,5—2 м). Абследавалі ў 1888 Е. Р. Раманаў, у 1976 А. Р. Мітрафанаў. Культурны пласт 0,25 м прасочваецца на пляцоўцы і яе схілах. Знойдзены фрагменты ляпнога глінянага посуду. Датуецца 8—7 ст. да н. э.— 1—2 ст. н. э.

Курганны могільнік-1 *дрыгавічоў*. За 1 км на З ад вёскі, у лесе. 56 насыпаў выш. 2,5—4 м, дыям. 6—17 м. Даследаваў адзін курган у 1888 Раманаў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне. Выяўлены рэшткі дамавіны, кавалкі тканіны і скураной папругі. Пахавальны інвентар — вітыя завушніцы, 8 спіральных бронзавых кольцаў, 81 біпірамідальная пацерка з пазалотай, прамавугольная падвеска з выявай Багародзіцы, кольцападобная падвеска са спіцамі. Датуецца 11—12 ст.

Курганны могільнік-2. За 1,5 км на Пд ад вёскі, у лесе. 39 курганоў выш. 3 м, дыям. 5—14 м. Абследавалі ў 1888 Раманаў, у 1976 Мітрафанаў.

*Літ.:* 323, 1046. *А. Р. Мітрафанаў.*



Крамянёвыя скрабкі (1—8), скобля (9), нажы (10—13), устаўная пласціна (14), праколкі (15—18), наканечнікі стрэл (19—26), долаты (27—28), фрагменты сякер (29—30), разцы (31—33), устаўныя трапецыі (34—35, 37), вострааканечнік (36), мікраліты (38—40) з паселішча-1 **Азярное.**

**АЗЯРНО́Е,** паселішча эпохі неаліту і бронзавага веку каля в. Азярное Любанскага р-на. Выявіў і даследаваў у 1985—87 М. М. Крывальцэвіч.

Паселішча-1. За 700 м на З ад вёскі, на пясчанай дзюне каля воз. Вячэра, ва ўрочышчы Дубное. Памеры 145×95 м. На раздуве сабраны крамянёвыя вырабы эпохі позняга мезаліту з адзнакамі інвентару помнікаў кудлаеўскага тыпу, кераміка бронзавага веку і *мілаградскай культуры*. Раскапана 536 м² плошчы. Культурны пласт да 0,6 м, месцамі з праслойкай пяску. Знойдзены крамянёвыя прылады працы і палявання (нажы, скрабкі, скоблі, праколкі, разцы, адбойнікі, рэтушоры, наканечнікі стрэл), ляпная кераміка з дамешкамі пяску і жарствы ў гліне (фрагменты познанеалітычнага вастрадоннага посуду з пукатым, часам рабрыстым тулавам, адагнутымі вонкі венчыкамі, упрыгожанага грабеньчатым штампам, наколам, насечкамі, лініямі, «вусенямі», грабеньчатымі, лапчастымі, вузельчатымі, шнуравымі адбіткамі). Кераміка датуецца канцом 3 — пач. 2-га тысячагоддзя да н. э. і суадносіцца з 4-м этапам *днепра-данецкай культуры*; заўважаецца значны

ўплыў *нёманскай культуры*. Выяўлены сляды наземнай пабудовы. Знойдзены прылады працы эпохі бронзы (каменная сякера-клін, шліфавальныя пліткі, крамянёвыя шліфаванае чатырохграннае долата, лязо долата, апрацаваныя рэтушшу нажы, трохвугольныя наканечнікі стрэл і інш.). Кераміка 2-й чвэрці 2-га тысячагоддзя да н. э. (позні этап *сярэднедняпроўскай культуры*, прыпяцкі варыянт) арнаментавана лінейным і шнуравым штампам, зубчастымі, накольчатымі адбіткамі. Выяўлены рэшткі посуду *ўсходнетшцінецкай культуры* з адзнакамі пэўнага ўплыву помнікаў *сосніцкай культуры*. Трапляецца кераміка, якая мае аналагі на помніках *лебядоўскай культуры*. Знойдзены посуд мілаградскай культуры (з пукатым тулавам, высокай шыйкай, упрыгожаны «жамчужным» арнаментам) і зарубінецкага тыпу (рабрыстыя штрыхаваныя міскі з выгнутымі шыйкамі).

Паселішча-2. За 800 м на ПдЗ ад вёскі, на пясчаным выступе берага воз. Вячэра і сумежнай падводнай зоне. На беразе знойдзены крамянёвыя прылады працы і рэшткі керамікі эпохі неаліту і бронзавага веку. Са дна возера на адлегласці 50—200 м ад берагавой лініі падняты кавалкі крэменю і крамянёвыя вырабы (скрабкі, скоблі, нажы, разцы, рэтушоры, тронкавыя наканечнікі стрэл), косці жывёл і рыб, а таксама больш за 70 прылад з косці і рога.

Сярод іх кінжалы з локцевых і трубчастых касцей, касцяныя шматлікія гладкія тронкавыя і бязтронкавыя лістападобныя, ланцэтападобныя, вузкія наканечнікі коп'яў і дроцікаў (большасць з пазамі для крамянёвых укладышаў), гарпун з дзюбападобнымі зубцамі, наканечнікі стрэл (іголкападобныя, біканічныя конусападобныя, пляскатыя лістападобныя), праколкі (у т. л. з іклоў), рыбалоўны кручок з зубцом для прывязвання, рэтушоры, рагавыя матыкі з свідраванай адтулінай. Некалькі прылад арнаментаваны нарэзкамі.

Найбольш цікавы фрагмент жазлопадобнага вырабу з косці лася, на якім выгравіраваны 2 выявы чалавека і ромбападобная фігура. Выяўлена кераміка днепра-данецкай культуры перыяду ранняй бронзы (1-я пал. 2-га тысячагоддзя да н. э.). Мяркуючы па знаходках, паселішча-2 існавала з позняга мезаліту да ранняй бронзы. У возеры знойдзены таксама жал. вузкалязовая з выступаючымі шчокамі сякера з рэшткамі дзяржання ў адтуліне (2-я пал. 1-га тысячагоддзя н. э.), наканечнік кап'я (1-е тысячагоддзе да н. э.— 1-е тысячагоддзе н. э.).

*Літ.:* 608, 609, 610.

*М. М. Крывальцэвіч*



Рагавыя востраканечнікі (1—3) і цясла (4), касцяныя востраканечнікі і іх фрагменты (5—8, 10), рагавая матыка (9), касцяное долата (11) з паселішча-2 **Азярное**.


Арнаментаваны касцяны востраканечнік з паселішча-2 **Азярное**.


**Акінак.**

**АЗЯРЦО́**, курганны могільнік каля в. Азярцо Мінскага р-на. За 1,2 км на Пд ад вёскі, за 2 км ад *Гарадзішча* Мінскага р-на на левым беразе р. Пціч. 6 насыпаў: 2 курганы (дыям. 8—10 м, выш. 2—3 м) на ўзгорку і 4 (дыям. 9 м, выш. 0,8 м) на лузе пры ўпадзенні р. Менка ў Пціч. У 1979 В. А. Карпека даследаваў курган на ўзгорку, у 1980 Г. В. Штыхаў раска-

...аў 2 курганы на лузе. Пахавальны абрад — трупаспаленне. Знойдзены рэшткі згарэлых зрубаў, фрагменты ганчарнага посуду. Пахавальны інвентар належаў мужчыну і жанчыне: 5 шкляных і 4 бронзавыя пацеркі (спіралепадобныя і шматгранныя), фрагмент крывіцкага серпападобнага скроневага кольца, абломак шыйнай грыўні, трапецападобная падвеска з лінейным арнаментам, гліняная біканічнае праслiца. Датуецца 10 ст. *Г. В. Штыхаў.*

**АКІНА́К** (грэч. akinákēs), кароткі (40—60 см) меч ці кінжал, традыцыйная зброя стараж. іранамоўных народаў (персаў, сакаў, саўраматаў, скіфаў). Важная роля належала А. ва ўзбраенні скіфаў. Запазычаны суседнімі народамі. У багатых скіфскіх курганах Украіны (Салоха, Чартамлык і інш.) знойдзены залатыя па-мастацку зробленыя ножны А. На Беларусі, паводле В. М. Мельнікоўскай, знойдзены 2 А. паблізу в. Асарэвічы Брагінскага р-на. У Варшаўскім археал. музеі захоўваецца бронзавае дзяржанне А. скіфа-сібірскага тыпу з віцебскай калекцыі Э. Маеўскага, аздобленае спецыфічным вуглавата-стружкавым арнаментам, характэрным для заходнесібірскай усць-палуйскай культуры 6—2 ст. да н. э.

*Літ.:* 772, 897, 1296.



Фрагменты керамікі з паселішчаў **Азярное.**





Антрапаморфная выява на косці лася з паселішча-2 **Азярное.**

**АКНО́.** Паводле археал. даследаванняў, на тэр. Беларусі найб. архаічнае А. мела форму адтуліны ў 2 сумежных вянках зруба, звычайна ў верхняй або сярэдняй яго частцы. Вядома і валаковае А., якое зачынялася звонку спец. засаўкай — «волакам» (выяўлена ў пабудовах Бярэсця 12—13 ст., захавалася ў сялянскіх хатах да пач. 20 ст.). У каменным дойлідстве часоў Кіеўскай Русі ўжываліся ў асноўным 2 тыпы аконных праёмаў. Адзін — просты арачны праём з паралельнымі шчокамі (вядомы з 9 ст.), часам заглыблены з боку фасада ў дэкаратыўную нішу. Такія праёмы часам групаваліся па 2,3 і больш. З сярэдзіны 16 ст. пашырыўся другі праём з раструбам і вонкавымі адкосамі, перакрыты 2 канічнымі арачнымі перамычкамі, злучанымі вузкім бокам. У храмах сустракаюцца маленькія аконныя праёмы ў выглядзе круглых або крыжападобных адтулін, што асвятляюць храм, унутрысценавыя лесвіцы, праходы. У 11—12 ст. А. мела драўляныя (дашчаныя) аканіцы з радамі круглых адтулін дыям. 15—20 см, у якія ўстаўляліся шыбкі. Паміж круглымі часам праразалі трохвугольныя, ромбападобныя ці квадратныя адтуліны. У 2-й пал. 13 — 1-й пал. 16 ст. пашыраны арачнае А. (выкарыстоўвалася як байніца) і са спічастым завяршэннем. У 16—17 ст. А. ў замкавых палацах мела вапнавае абрамленне. Прамавугольныя, лучковыя, арачныя, паўцыркульныя, крыжовыя праёмы закрываліся зашклёнымі рамамі з драўлянымі і алавянымі пераплётамі. У іх устаўлялі шкляныя круглыя, прама-, трох- ці шматвугольныя шыбкі або вітражы. У дамах невял. сядзіб замест шкла выкарыстоўвалі слюду, насычаную спец. смалой паперу, пергамент або палатно.

*Літ.:* 908. *А. А. Трусаў.*

**«А́КТА БА́ЛТЫКА-СЛА́ВІКА»** («Acta Baltico-Slavica»; «Балта-славянскія акты»), штогоднік Беластоцкага навук. таварыства. Выходзіць у Беластоку (Польшча), выдадзена 19 тамоў (1990). У 1964—70 пад рэдакцыяй Е. Антаневіча выйшла 7 тамоў, калі штогоднік спецыялізаваўся па праблемах гісторыі, археалогіі, этнаграфіі і мовазнаўства, матэрыялы друкаваліся на польскай, рус., англійскай, французскай мовах.

У артыкулах па археалогіі асн. ўвага канцэнтравалася на пытаннях узаемасувязей паміж балтамі і славянамі ў стараж. часы, у т. л. выказана меркаванне пра існаванне прарадзімы літоўскіх плямён на тэр. сучасных Літвы, Беларусі і Смаленшчыны ў раннім жал. веку (т. 4, 1966). Сярод матэрыялаў

польска-савецкага сімпозіума пра балта-славянскія кантакты (Беласток, 1965) змешчана дыскусія аб паходжанні крывічоў (т. 6, 1969). Друкаваліся рэцэнзіі на публікацыі па археалогіі Беларусі, паведамленні пра навук. нарады, у якіх прымалі ўдзел бел. даследчыкі.

*Літ.:* 488. *Г. В. Штыхаў.*

**АКТЫВАЦЫЙНЫ АНАЛІЗ,** метад вызначэння складу рэчыва. Заснаваны на актывацыі атамных ядраў і даследаванні іх радыеактыўнага выпрамянення. Для даследавання археал. і нумізмат. аб'ектаў скарыстоўваецца з пач. 1950-х г. А. а. бывае нейтронна-актывацыйны (актывацыя ў патоку нейтронаў), гама-актывацыйны (у патоку гама-квантаў), аналіз на зараджаных часцінках (у патоку зараджаных часцінак).

Для даследавання археал. знаходак найб. значэнне мае нейтронна-актывацыйны аналіз, які вызначаецца высокай адчувальнасцю: $10^{-5}$ — $10^{-10}$% пры вял. патоках нейтронаў і $10^{-4}$ — $10^{-6}$ % пры меншых патоках (ампульныя нейтронныя крыніцы або нейтронныя генератары). Галоўная годнасць А.а.— магчымасць вызначэння малых утрыманняў элементаў, а таксама правядзенне масавых экспрэсных аналізаў. А.а. дазваляе вызначыць малыя дамешкі і зрабіць вывад аб асаблівасцях кампанентаў сыравіны і ўстанавіць радовішча, якое скарыстоўвалася. Па характэрным для кожнага рэгіёна ўтрыманні мікрадамешкаў можна вызначыць ці з'яўляюцца знаходкі вырабамі мясцовых рамеснікаў або прывезены з інш. рэгіёнаў. Як правіла, А.а. робіцца адразу па шматлікіх элементах. Велічыня памылкі 1—2 %. Нейтронна-актывацыйны аналіз скарыстоўваецца і для колькаснага аналізу макрадоляў рэчыва (асновы), вызначэння долевага ўтрымання высакародных металаў у манетах без парушэння іх цэласнасці і скажэння вынікаў аналізу з-за каразійных працэсаў на паверхні манеты. Скарыстоўванне гама-актывацыйнага аналізу з неаднаразовым апрамяненнем адной манеты кобальтавай гарматай дазваляе зрабіць аналіз на золата за 15 мін, на серабро — за 1 гадз. У музейнай справе скарыстоўваецца для экспертызы сапраўднасці аб'екта. Антыкварныя падробкі нават пры правільным утрыманні асн. кампанентаў маюць анамальныя канцэнтрацыі дамешкаў. Недахоп усіх метадаў А.а.— іх высокі кошт і малая даступнасць магутных нейтронных і гама-крыніц.

*Літ.:* 184. *І. Я. Раханскі, І. І. Сінчук.*

**АКУЛІНКА,** археал. помнікі каля в. Акулінка Мазырскага р-на.

Гарадзішча *зарубінецкай культуры* і эпохі Кіеўскай Русі. На ўсх. ускраіне вёскі, ва ўрочышчы Гарадок. Мясц. назва Акунь-гарадок. Пляцоўка памерам 80×45 м выцягнута ўздоўж карэннага берага Прыпяці, выш. 20 м над поймай. З зах. і ўсх. бакоў умацавана ровам глыб. 0,6 м і валам выш. 0,8 м, з паўд. боку вал знесены, роў засыпаны, з паўночнага — вал падмыты ракой і абсыпаўся. Абследавалі ў 1957 Л. Д. Побаль, у 1961 П. Ф. Лысенка, у 1976 У. Ф. Ісаенка. Культурны пласт 0,5 м. Знойдзены крамянёвыя прылады працы, наканечнікі стрэл, ляпная кераміка, рэшткі ганчарнага посуду 12—13 ст. Датуецца 2 ст. да н. э.— 2 ст. н. э.




Крамянёвыя наканечнікі стрэл (1, 2, 4), устаўкі (3, 6), разцы (5, 8), скрабок (7) з гарадзішча **Акулінка.**

Могільнік-1 *дрыгавічоў.* За 600 м на ПдУ ад гарадзішча, ва ўрочышчы Лоўчык, 32 курганы выш. 0,2—0,4 м, дыям. 2—3 м. Даследаваў 4 курганы ў 1961 Лысенка. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў ямах галавой на З. Знойдзены 4 скроневыя кольцы.

Могільнік-2. За 1 км на ПдУ ад вёскі, ва ўрочышчы Капцы. 20 курганоў выш. 0,5 м, дыям. 3—6 м, 3 насыпы выш. 2—2,5 м, дыям. 12—14 м. Выявілі ў 1960 Ісаенка і І. М. Цюрына, абследавалі ў 1961 Лысенка, у 1976 Ісаенка.

*П. Ф. Лысенка.*



**Алебарда** 15 ст. з Віцебска.



**Алебарды** 17 ст.

**АЛЕБАРДА** (італьян. alabarda, франц. hallebarde, ням. Hellebarte ці Halm дрэўка + Barte сякера), старадаўняя халодная колюча-сякучая дрэўкавая зброя даўж. да 2,5 м. Узнікла ў Швейцарыі ў пач. 14 ст. Баявая частка складалася з некалькіх злучаных паміж сабою элементаў: сякеры або месяцападобнага ляза для сячэння, гранёнага нажа або вілападобнага кап'я для ўколу і пранікальнага ўдару і зачэпнага крука для сцягвання вершніка з каня і вырывання праціўніка з пешага строю. Узнікла ў выніку спробы прымацаваць да доўгага дрэўка баявы нож — скрамасакс. У сувязі з закругленнем і павелічэннем яго ляза, вынаходніцтвам пастаянных зачэпных прыстасаванняў (тулеек) скрамасакс ператварыўся ў *бярдыш.* У 13—14 ст. у выніку яго ўдасканалення і аснашчэння кап'ём узнікае сапраўдная А. Зачэпны крук (гак) спачатку прымацоўвалі да дрэўка аўтаномна паміж 2 тулеек. З канца 14 ст. коп'і ў А. пачалі рабіць доўгімі і тонкімі, на 4 канты для прабадзення кальчуг і пласціністых даспехаў. Абедзве тулейкі зліліся ў адну суцэльную, да якой пачалі прываркаваць зачэпны гак, што разам з сякерай і кап'ём стварыў адно цэлае. А. з дапамогаю 2 жал. пласцін — «вусоў» — мацавалася да дрэўка. Працэс канструкцыйнага фарміравання А. завяршыўся каля 1400. У 15 ст. вастрыё сякучай часткі А. стала больш доўгім, мела прамую ці злёгку выпуклую лінію; павялічаная даўжыня кап'я зрабіла А. больш прыдатнай для прабівання даспехаў праціўніка. На працягу 16 ст. А. паступова знікла з узбраення пяхоты



Гліняныя прасліца, грузік дзякоўскага тыпу і фрагменты посуду з гарадзішча **Алёхаўка.**

і засталася як сімвал улады і зброя афіцэраў. У 17—19 ст. выкарыстоўвалася як зброя палацавай і гарадской начной варты.

Форма і выгляд А. змяніліся: памеры сякеры паменшыліся, лязо стала ўвагнутым, а 4-кантовае тонкае кап'ё празмерна доўгім. Палацавыя парадныя А. пачалі багата аздабляць залачэннем, чарненнем, траўленнем; дрэўка абівалі аксамітам; пад жалезцам падвешвалі вітыя рознакаляровыя шнуры. Часам сякера і крук набывалі дзівосную канфігурацыю. У 16— 17 ст. А. суіснавала з такімі аналагічнымі відамі халоднай зброі, як эспантон, пратазан, гізарма і глевія. У 18 — 1-й пал. 19 ст. выгляд А. як зброі начной варты зноў змяніўся: кап'ё стала кароткім і шырокім, крук-гак часам замянялі на простае вастрыё; сякера стала маленькай з выпуклым вастрыём. На Беларусі А. бытавала ў 15—18 ст. У пісьмовых крыніцах вядома пад назвай «барта», «бартка», «бардка».

*Літ.:* 1408, 1423, 1458, 1510.

*М. А. Ткачоў.*

**АЛЕКСЯЮК** Міхаіл Іванавіч (1.11.1907, г. Лодзь, Польшча — 24.1.1983), беларускі краязнавец. У 1928 скончыў Брэсцкі чыгуначны тэхнікум. Да 1967 працаваў у сістэме меліярацыі Палесся, потым — старшым навук. супрацоўнікам Брэсцкага абл. краязнаўчага музея. Адкрыў неалітычныя пабудовы на палях на воз. Ула Вілейскага р-на, стаянкі на тэр. Брэсцкай вобл. (в. Блювінічы, Бараны, Мышчыцы, Мікольскае, Опаль і інш.), удзельнічаў у археал. раскопках гарадзішча Бярэсце. Падрыхтаваў і апублікаваў больш за 150 нарысаў па гісторыі населеных пунктаў Брэстчыны (Бяроза, Гарадная, Давыд-Гарадок, Драгічын, Ляхавічы, Столін, Хомск, Чарнаўчыцы, Шарашова і інш.).

*Тв.:* Пінская грамата // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1971. № 2; Камянецкая вежа // Там жа. 1973. № 2; Вядо і Тупічыцы // Там жа. 1975. № 4; Палавецкія паселішчы на Беларусі // Там жа. 1978. № 1. *П. С. Шылін.*

**АЛЕШКІ,** курганны могільнік балтаў каля в. Алешкі Мядзельскага р-на. За 500 м на ПдЗ ад вёскі, на правым беразе р. Страча, у лесе. Захавалася 12 насыпаў з запалымі вяршынямі і каменнымі абкладамі на схілах. Выш. 0,7—1,5 м, дыям. 6—11 м. Выявіў і даследаваў 8 насыпаў у 1895 Ф. В. Пакроўскі, абследаваў у 1979 Я. Г. Зваруга. Пахавальны абрад — трупаспаленне на гарызонце, у грунтавых ямах, у насыпе, адзіночныя і двайныя (1). Пахавальны інвентар — жал. наканечнікі коп'яў, сякеры, нажы, шыла, шпоры, спражкі, спіраль, кольца,



**Алтын:** Аляксей Міхайлавіч, 1654—55, медзь (1); Іван V Аляксеевіч [1682—96], серабро (2); Пётр I, недатаваны, 1704, 1713, 1718, серабро (3—6).



**Альбертусталер:** Карл II, патагон Брабанта 1677 (1); Філіп IV, паўпатагон Брабанта 1623 (2); Альберт і Ізабела, чвэрць патагона 1612 (3).

бронзавы пінцэт. Знойдзены фрагменты гліняных гаршкоў, рэшткі каня. Датуецца 2-й пал. 1-га тысячагоддзя н. э.

*Літ.:* 914. *Я. Г. Звяруга.*

**АЛЁХАЎКА,** гарадзішча штрыхаванай керамікі культуры каля в. Алёхаўка Уздзенскага р-на. За 2 км на З ад вёскі, у пойме р. Алёхаўка. Пляцоўка памерам 50×60 м, выш. над наваколлем 5—7 м (амаль цалкам знішчана буд. работамі). Захаваліся рэшткі вала і рова. Адкрыў у 1868 і даследаваў у 1869 Я. Завіша, абследавалі ў 1949, 1971 А. Р. Мітрафанаў, у 1976, 1977, 1979 Л. У. Калядзінскі. Культурны пласт 0,6—0,7 м. Выяўлены рэшткі ляпной штрыхаванай керамікі і глінянай абмазкі, гліняныя біканічныя праслíцы, кавалак грузіка, вял. каменны молат. Датуецца 7 ст. да н. э.— 4 ст. н. э.

*Літ.:* 904.

**АЛТЫ́Н** (ад татар. алты — шэсць), 1) рускае лікава-грашовае панаццe, якое выражала суму ў 6 *дзенег* або 3 *капейкі.* Упершыню ўпамінаецца ў рус. пісьмовых крыніцах каля 1375, у беларускіх — пад 1532. Да 1720-х г.— аснова 200-грашовага лікавага рубля (1рубель = 200 дзенег = 33 А. і 2 дзенгі). З 1721 указам Пятра I забаронена вылічэнне грашовых сум у А. 2) Сярэбраная манета без абазначэння *наміналу,* чаканеная штэмпелем капейкі на расплюшчаных драцяных абрэзках, таму мела няправільную авальную форму. Па масе роўная 3 капейкам. Эмісія адкрыта Фёдарам Іванавічам [1584—98], прадоўжана далейшымі царамі і спынена Пятром I, пры якім выпушчана з датамі 1693, 1696, 1698, 1700, 1706 і 1716. Драцяныя А. з серабра (як правіла, залачоныя з адтулінай для падвешвання) прызначаны, магчыма, для царскіх узнагарод. 3) Медныя драцяныя А. 1654—55, выпушчаныя дзенежнымі дварамі Масквы (маса 0,70 г) і Пскова (маса 1,37 г) з курсам, парытэтным 6 дзенгам або 3 капейкам. Зняты з абарачэння ў 1663. 4) Сярэбраная манета, уведзеная *грашовай рэформай Пятра I.* Чаканілі розныя *манетныя двары Расійскай дзяржавы* з абазначэннем наміналу **алтынъ:** Красны двор у 1704 (*лігатурная маса* манеты каля 0,80 г, *залатніковая проба* каля 77), 1711—12 (маса каля 0,80 г, проба каля 72 г); Кадашаўскі двор у 1710 (маса каля 0,80 г, проба каля 72 г). З абазначэннем наміналу **алтынъ** і 3 рэльефныя кропкі: Красны або Кадашаўскі двары ў 1713—14 (маса 1,70 г, проба 38). З абазначэннем наміналу **алтыннікъ:** Красны або Кадашаўскі двары ў 1710—12 (маса каля 0,80 г, проба каля 72). З абазначэннем наміналу **алтыннікъ** і 3 рэльефныя кропкі: Красны або Кадашаўскі двары ў 1718 (маса 1,70 г, проба 38). 5) Папулярная назва манеты наміналам у *тры капейкі.*

*Літ.:* 116, 1526, 1558, 1601, 1620, 1637. *В. Н. Рабцэвіч.*

**АЛЬБЕРТУСТА́ЛЕР** (ням. Albertustaler), талерная манета і яе фракцыі ў $^1/_2$ і $^1/_4$, якія чаканіліся з 1612 намеснікамі іспанскай кароны ў паўд. Нідэрландах Альбертам і Ізабэлай. Колькасць серабра 24,65 г. *Аверс:* кругавая *легенда,* у *полі* манеты т. зв. бургундскі крыж у выглядзе 2 скрыжаваных паліц Геракла; *рэверс:* кругавая легенда, у полі дзярж. герб Іспаніі на геральдычным «іспанскім» шчыце, абкружаным ланцугом з ордэнам Залатога руна. У большасці выпадкаў не датуецца. Атрымаў агульнаеўрап. пашырэнне, што выклікала да жыцця перайманне яго эмісій Брауншвейга, Гальштыніі, Прусіі, Даніі, Венгрыі. Паўд.-нідэрландскія *патагоны* і іх фракцыі ў $^1/_2$, $^1/_4$, чаканеныя каралямі Іспаніі Філіпам IV [1621—65] і Карлам II [1665—1700] тыпалагічна капіравалі чаканку Альберта і Ізабэлы і таму часта насілі яго назву. А. у германскіх дзяржавах быў вядомы пад назвай Kreuztaler (крэйсталер, крыжовы талер), на Беларусі і Украіне — «крыжовы».

*Літ.:* 1579. *В. Н. Рабцэвіч.*



В. П. Аляксееў.



Л. В. Аляксееў.

**АЛЯКСЕ́ЕВА** Таццяна Іванаўна (н. 7.2.1928, Казань), савецкі антрапалог. Д-р гіст. навук (1969). Скончыла Маскоўскі дзярж. ун-т (МДУ, 1951). Працуе ў НДІ антрапалогіі імя Дз. М. Анучына МДУ. Даследавала краніялагічныя матэрыялы з усходнеслав. курганных могільнікаў 11—15 ст., у т. л. з тэрыторыі рассялення дрыгавічоў, радзімічаў і полацкіх крывічоў. Адзначыла, што іх чарапы маюць падабенства і характарызуюцца масіўнасцю, асабліва крывіцкія. Параўнанне гэтых матэрыялаў з ранне- і познасярэдневяковымі краніялагічнымі серыямі паўд. і зах. славян, балцкага і фіна-угорскага насельніцтва дазволіла зрабіць шэраг вывадаў пра генетычныя вытокі, антрапалагічныя асаблівасці розных слав. плямён як следства іх кантактаў з абарыгенным насельніцтвам пры рассяленні па тэр. Усх. Еўропы. Распрацоўвае канцэпцыю экалагічнай абумоўленасці фарміравання адаптыўных тыпаў у сувязі з паходжаннем расавых асаблівасцей.

*Тв.:* Этногенез восточных славян по данным антропологии. М., 1973; Географическая среда и биология человека. М., 1977; Адаптивные процессы в популяциях человека. М., 1986.

*І. І. Салівон.*

**АЛЯКСЕ́ЕЎ** Валерый Паўлавіч (н. 2.8. 1929, Масква — 7.11.1991), рускі сав. антраполаг і гісторык. Д-р гіст. навук (1967), акадэмік АН СССР (1988). Скончыў Маскоўскі ін-т усходазнаўства (1952). З 1988 дырэктар ін-та археалогіі АН СССР. Даследаваў страж. і сучаснае насельніцтва Усх. Еўропы, Каўказа, Сярэдняй Азіі, Сібіры, Манголіі, Індыі, Кубы і інш. Працы прысвечаны праблемам антрапагенезу, расагенезу, этнагенезу. Вызначыў ролю геаграфічных і сацыяльных фактараў у расавай дыферэнцыяцыі чалавецтва. Прапанаваў прынцыпова новую класіфікацыю чалавечых рас, заснаваную на паслядоўнасці ўзнікнення ачагоў расаўтварэння. У кн. «Паходжанне народаў Усходняй Еўропы» (1969) абагуліў этнагенетычны аналіз палеаантрапалагічных даных, у т. л. па беларусах 19 ст. Прымаў удзел у падрыхтоўцы навук. кадраў і фарміраванні навук. тэматыкі групы антрапалогіі Ін-та мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР.

*Тв.:* География человеческих рас. М., 1974; Палеоантропология земного шара

і формирование человеческих рас: Палеолит. М., 1978; Историческая антропология. М., 1979; Становление человечества. М., 1984; Географические очаги формирования человеческих рас. М., 1985; Этногенез. М., 1986; Историческая антропология и этногенез. М., 1989. *І. І. Салівон.*

**АЛЯКСЕЕЎ** Леанід Васілевіч (н. 15. 1.1921, г. Растоў-на-Доне), савецкі археолаг і гісторык. Д-р гіст. навук (1982). Скончыў Маскоўскі ун-т (1948). У 1948—50 працаваў у Гродзенскім гіст.-археал. музеі, з 1953 — у Ін-це археалогіі АН СССР. У 1962—66 выкладаў агульны курс археалогіі ў Магілёўскім педагагічным ін-це. Даследуе праблемы археалогіі, гісторыі архітэктуры і мастацтва Беларусі і Смаленшчыны 9—13 ст., вывучае гісторыю археалогіі і краязнаўства гэтых рэгіёнаў, склаў іх падрабязныя археал. карты. Праводзіў раскопкі стараж. гарадоў Беларусі (Браслаў, Друцк, Мсціслаў) і Рослаўля. Пасля картаграфавання археал. помнікаў 10—13 ст. на тэр. Полацкай зямлі вызначыў некалькі густанаселеных масіваў, размежаваных вял. лясамі. Аўтар прац па гісторыі дзекабрызму на Беларусі, гісторыі дарэвалюцыйнай навукі.

*Тв.:* Лазарь Богша — мастер-ювелир XII в. // Сов. археология. 1957. № 3; Полоцкая земля в IX—XIII вв.: (Очерки истории Северной Белоруссии). М., 1966; По Западной Двине и Днепру в Белоруссии. М., 1974; Мелкое художественное литьё из некоторых западно-русских земель // Сов. археология. 1974. № 3; Устав Ростислава Смоленского 1136 г. и процесс феодализации Смоленской земли // Słowianie w dziejach Europy. Poznań, 1974; Домен Ростислава Смоленского // Средневековая Русь. М., 1976; О древнем Мстиславле // Сов. археология. 1977. № 1; Смоленская земля в IX—XIII вв.: Очерки истории Смоленщины и Восточной Белоруссии. М., 1980; Берестяная грамота из древнего Мстиславля // Сов. археология. 1983. № 1. *Г. В. Штыхаў.*

**АЛЯРОД,** гл. ў арт. *Позналедавікоўе.*

**АМОСЕНКІ,** комплекс археал. помнікаў каля в. Амосенкі Расонскага р-на.

Г а р а д з і ш ч а *днепра-дзвінскай культуры.* За 150 м на Пн ад вёскі, каля былой в. Шуляціна (пад гэтай назвай вядома ў навук. літаратуры), на выспе, выцягнутай з Пн на Пд на 110 м. Пляцоўка авальная, памерам 40×30 м, выш. 10 м. З Пд прасочваецца вал выш. 1,2 м. Даследаваў у 1964 К. П. Шут, абследавала ў 1981 Т. С. Скрыпчанка. Культурны пласт 0,5—1,1 м. Знойдзены рэшткі ляпной керамікі. Датуецца 3 ст. да н. э.—4 ст. н. э.

С е л і ш ч а - 1. На выспе, побач з гарадзішчам. Памеры 60×30 м. Даследаваў у 1964 Шут, абследавала ў 1981 Скрыпчанка. Выяўлены рэшткі паўзямлянкавага жытла, знойдзены кавалкі ляпной гладкасценнай керамікі. Датуецца 6—7 ст.

С е л і ш ч а - 2. На ўзвышшы паміж выспай і ручаём, які ўпадае ў воз. Стрэшна. Памеры 60×30 м. Даследаваў у 1964 Шут. Знойдзены кавалкі ляпной гладкасценнай керамікі. Датуецца 6—7 ст.

М о г і л ь н і к - 1. За 500 м на Пд ад гарадзішча, ва ўрочышчы Барок. 2 курганы дыям. 8—10 м, выш. 1—1,4 м. Выявіў у 1964 Шут, абследавалі ў 1874 Г. В. Штыхаў, у 1981 Скрыпчанка.

М о г і л ь н і к - 2. За 1,5 км на Пд ад вёскі, каля былой в. Стараселле. 2 насыпы дыям. да 10 м, выш. 1,4 м. Выявіў у 1964 Шут, абследавалі ў 1974 Штыхаў, у 1981 Скрыпчанка. *Г. В. Штыхаў.*



Агульны выгляд гарадзішча Амосенкі.



Амулет-конік 12 ст. з даваенных фондаў Беларускага дзяржаўнага музея.



Амфары 12—13 ст. Навагрудак.

**АМУЛЕТ** (ад лац. amuletum), невялікая рэч, якую людзі насілі на целе і якой прыпісвалі магічныя ўласцівасці: здольнасць засцерагаць ад злых духаў, розных няшчасцяў, чараў, адводзіць хваробы, прыносіць поспех. Вера ў чарадзейную сілу А. ўзнікла яшчэ ў палеаліце і захавалася да нашых дзён. Яна звязана з першабытнай магіяй і фетышызмам. У стараж. часы ў якасці А. выкарыстоўвалі прасвідраваныя зубы і косці жывёл.

На тэр. Беларусі найб. старажытныя А. адносяцца да неаліту (паселішча на Крывінскім тарфяніку ў Сенненскім р-не, каля в. Камень Пінскага р-на). Пашырыліся ў жал. веку. Апрача прасвідраваных зубоў жывёл і касцяных падвескаў, выраблялі разнастайныя металічныя А. Паявіліся лунніцы, звязаныя з культам Месяца, які быў часткай аграрнага культу. На некаторых лунніцах ёсць выява крыжа — сімвала Сонца. Пры раскопках раннесярэдневяковых курганоў знойдзены А.-падвес-

кі — мініяцюрныя выявы сякер (сімвал Перуна), качак, нажоў, лыжак. Выяўлена шмат А. у выглядзе конікаў.

У якасці А.-абярэгаў, якія нібыта ахоўвалі здароўе ўладальніка, выкарыстоўвалі медальёны-змеевікі. Абярэгамі былі, напэўна, і шматлікія бранзалеты, асабліва «змеегаловыя», якія трапляюцца пераважна на ПнУ Беларусі. Пры раскопках Мінскага замчышча знойдзены залаты бранзалет са стылізаванымі зааморфнымі выявамі. Звышнатуральныя ўласцівасці прыпісваліся і некаторым каштоўным камяням. Напр., у старажытнасці лічылася, што бурштын дабратворна ўплывае на здароўе таго, хто яго носіць. Падвескі з яго былі адначасова і ўпрыгожаннем, і А. У язычніцкія часы ў якасці А. насілі крыжападобныя падвескі, а пасля прыняцця хрысціянства — крыжыкі.

*Э. М. Зайкоўскі.*

**АМФАРА** (лац. amphora ад грэч. amphoreus), у антычных грэкаў і рымлян гліняная або металічная пасудзіна з высокім вузкім горлам і 2 вертыкальнымі ручкамі. У А. трымалі і перавозілі віно, алей, мёд, збожжа. На многіх ёсць малюнкі, арнаменты, надпісы. А. знойдзены пры раскопках гарадзішчаў на Пд, З, Пн Беларусі. У Кіеўскай Русі 10—12 ст. выраблял іся амфарападобныя пасудзіны — *карчагі.*

**АНГОБ** (франц. engobe), тонкі слой белай або каляровай гліны, які цалкам або часткова пакрывае керамічны выраб і маскіруе колер або грубую структуру яго чарапка. Падзяляюць А. на глініста-пескаваты з высокім водапаглынаннем і на той, што флюсуецца, з нізкім водапаглынаннем. Каляровыя А. рыхтуюць з белапаленых мас з дабаўкамі вокісаў металаў або каляровых пігментаў. Наносяць на высушаны ці абпалены выраб пульверызацыяй, паліўкай, пасля чаго выраб абпальваюць. А. можа быць пакрыты празрыстай palівай, размалёўкай. На тэр. Беларусі А. ўжываецца з 12 ст. (ганчарны посуд, керамічныя пліткі, дробная пластыка з раскопак Гродна, Пінска, Турава, Навагрудка, Полацка). Шырока распаўсюджаны ў гарадах Беларусі ў 14—17 ст. (Віцебск, Гродна, Магілёў, Мінск і інш.). Адзін з найб. пашыраных А. посуду 18—19 ст. у Прыпяцкім Палессі — цёмна-чырвоная размалёўка па белагліняным непаліваным чарапку. Яго фарбавальнікам з'яўляецца чырвоная охра.

*І. Я. Раханскі, І. І. Сінчук.*

**АНДРАФАГІ**, назва народа, замацаваная старажытнагрэчаскімі гісторыкамі і географамі за плямёнамі, якія насялялі ў сярэдзіне 1-га тысячагоддзя да н. э. лясную зону Усх. Еўропы. Герадот адзначаў, што А. насялялі берагі Барысфена (Дняпра) на Пн ад *скіфаў.* На думку гісторыка В. Дз. Блавацкага, паўн. мяжа Скіфіі праходзіла прыкладна праз Гомель і Рэчыцу, а землі А. знаходзіліся ў межах сучаснай Беларусі, таму што р. Бярэзіна ў старажытнасці лічылася вытокам Дняпра. Герадот падкрэсліваў, што мовай і звычаямі А. адрозніваліся ад скіфаў, але мелі падабенства ў адзенні. Займаліся яны вандроўнай жывёлагадоўляй і паляваннем. Магчыма, ім належалі гарадзішчы скіфскага часу ў басейне сярэдняй і верхняй Бярэзіны (*Аздзяцічы, Кімія, Лабеншчына* і інш.).

*Літ.:* 133, 964. *С. Я. Расадзін.*

**АНДРЭЕЎЦЫ**, курганны могільнік балтаў каля в. Андрэеўцы Смаргонскага р-на, на правым беразе р. Вілія. Захаваўся адзін курган дыям. 8 м, выш. 0,8 м. 16 насыпаў у 1935 даследавала археал. экспедыцыя Віленскага ун-та (Г. Цэгак-Галубовіч). Пахавальныя абрады — трупаспаленне за межамі могільніка (14), трупапалажэнне (2). Пахавальны інвентар — жал. нажы, шылы, бронзавыя бранзалеты з патоўшчанымі канцамі, спіралепадобны пярсцёнак, авальная спражка і інш. Знойдзены фрагменты керамікі, у т. л. слоікападобнай пасудзіны з шурпатай паверхняй. Датуецца 5—6 ст.

*Літ.:* 272,1435. *Я. Г. Звяруга.*





**Амфара** 12 ст. з надпісам. Навагрудак.

**АНОШКІ**, селішча каля в. Гарадоўка Чачэрскага р-на. Размешчана на Пн ад вёскі на месцы паселішча эпохі неаліту і бронзавага веку каля былой в. Аношкі, на левым беразе р. Сож, ва ўрочышчы Выган. У 1965 І. І. Арцёменка даследаваў 16 м² плошчы. Знойдзены рэшткі паглыбленых у грунт жытлаў і ганчарная кераміка. Датуецца 12—13 ст.

**АНТАНЕВІЧ** (Antoniewicz) Ежы (3.5.1919, г. Пётркуў Трыбунальскі, Польшча — 29.6.1970), польскі археолаг і гісторык. Д-р навук (1951). У 1945 скончыў гіст. ф-т Варшаўскага ун-та. У 1945—65 заг. аддзела Варшаўскага археал. музея. З 1967 кіраўнік Мазавецкага цэнтра навук. даследаванняў у Варшаве. Кіраўнік яцвяжскай (з 1955) і яцвяжска-шведскай (з 1959) археал. экспедыцый, на падставе якіх утварылася Беластоцкае навук. т-ва (з 1962 А. яго генеральны сакратар). Даследаваў культуру яцвяжскіх плямён, якія насялялі паўн. раёны Польшчы і захад Беларусі, звярнуў увагу на неабходнасць вывучэння ў гіст. параўнальным плане старажытнасцей гэтых раёнаў. На навук. канферэнцыі ў Мінску (1966) аргументавана выказаў думку аб неславянскай прыналежнасці помнікаў Тушамлінскай і калочынскай культур, што працэс засялення славянамі Верхняга Падняпроўя і асіміляцыі мясц. балцкага насельніцтва пачаўся не раней 6—8 ст., праходзіў доўга і паступова.

Тв.: Problemy i potrzeby badań archeologicznych na północno-wschodnich ziemiach Polski // Acta Baltico-Slavica. 1964. № 1.

*Літ.:* 1420, 1474 а. *Г. М. Сагановіч.*

**АНТАНЕВІЧ** (Antoniewicz) Уладзімеж (15.7.1893, г. Самбар, Галіцыя — 1968), польскі археолаг. Прафесар (1920), правадзейны чл. Польскай АН (1952). У 1925—33 выкладаў у Віленскім ун-це. У 1936—39 рэктар Варшаўскага ун-та, адначасова кіраўнік кафедры археалогіі. Займаўся вывучэннем мезалітычных помнікаў на тэр. Зах. Беларусі. Спрабаваў акрэсліць тэр. свідэрскай культуры на тэр. Беларусі і Літвы і выказаў меркаванне, што яе плямёны з'явіліся тут не пазней канца верхняга неаліту. У 1934 у Мінску прыняў удзел у навук. канферэнцыі, наладзіў кантакты з бел. археолагамі А. М. Ляўданскім, А. С. Дубінскім, К. М. Палікарповічам. Аўтар каля 300 навук. прац па археалогіі, народным мастацтве, музейнай справе, у т. л. даследавання пра залатыя рымскія солiды 3—4 ст. з Браслаўскага скарбу, адзіную такую знаходку на Беларусі (арт. «Два залатыя рымскія солiды з-пад Браслава» ў час. «Wiadomości numizmatyczno-archeologiczne». Kraków, 1931. Вып. 13).

*Тв.:* Czasy przedhistoryczne i wczesnodziejowe Ziemi Wileńskiej // Wilno i Ziemia Wileńska. Wilno, 1930. T. 1; Древнейшие остатки человека в северо-восточной Польше и Литве // Тр. II Междунар. конф. Ассоциации по изучению четвертичного периода Европы. Л. і др., 1934. Вып. 5.

*Г. М. Сагановіч, Г. В. Штыхаў.*

**АНТАНО́ВІЧ** Уладзімір Баніфатавіч [18.2(2.3).1834, мяст. Махноўка Бярдзічаўскага пав.— 8(21).3.1908], гісторык, археолаг, этнограф, заснавальнік укр. археалогіі, адзін з заснавальнікаў укр. гістарыяграфіі. Прафесар рус. гісторыі Кіеўскага ун-та (1878), чл.-кар. Пецярбургскай АН (1901). Скончыў Кіеўскі ун-т (1855). У 1863—80 гал. рэдактар Часовай камісіі для разбору стараж. актаў у Кіеве (1863—80), адзін з кіраўнікоў выдання «Архіў Паўднёва-Заходняй Расіі», кіраўнік гіст. т-ва Нестара-летапісца (з 1891). Праводзіў шматлікія археал. раскопкі на Украіне. У 1893 раскапаў 114 курганоў у 8 радзіміцкіх могільніках на Беларусі (сучасныя Буда-Кашалёўскі, Веткаўскі, Чачэрскі р-ны). Адстойваў тэорыю «бяскласавасці» і «дэмакратызму» ўкр. народа, проціпастаўляў яго рускаму, выступаў за самастойнасць укр. нац. руху ад агульнарасійскага рэвалюцыйнага руху. Даследаваў гісторыю Украіны, Вял. кн. Літоўскага, украінскія гіст. песні, магічныя абрады.

*Тв.:* Очерк истории Великого княжества Литовского до половины XV столетия. Вып. 1. Киев, 1878; Монографии по истории Западной и Юго-Западной России. Т. 1. Киев, 1885; Погребальный тип могил Радимичей // Археологические известия и заметки. М., 1893. Т. 1, № 9—10; Раскопки в бывшей земле радимичей // Чтения в историческом обществе Нестора-летописца. Киев, 1894. Кн. 8.

*Літ.:* 313, 465, 858.

*У. У. Багамольнікаў.*

**АНТРАПАГЕ́Н** (грэч. ánthrōpos чалавек + génos нараджэнне), а н т р а п а г е н а в ы п е р ы я д, ч а ц в я р ц і ч н ы п е р ы я д, апошні найбольш кароткі ў гісторыі Зямлі геалагічны перыяд, які працягваецца і цяпер. Назву атрымаў паводле найвышэйшай адметнасці — паяўленні чалавека. Ніжняя мяжа А. дакладна не вызначана.

У залежнасці ад таго, дзе яе праводзіць той ці іншы даследчык, працягласць А. вызначаюць у 600—700 тыс. гадоў, некаторыя вучоныя — ад 1 да 3—3,5 і нават у 5,5 млн гадоў. Розныя думкі існуюць і наконт падзелу А. У большасці схем вылучаюць эаплейстацэн (верхняя частка папярэдняга неагенавага перыяду), плейстацэн, які ў сваю чаргу падзяляюць на раннюю, сярэднюю і познюю эпохі, і *галацэн* — сучасная эпоха. Найб. характэрнай рысай А. з'яўляецца неаднаразовае развіццё мацерыковых зледзяненняў. Паводле пашыранай у Зах. Еўропе альпійскай схемы ў перыяд А. зафіксавана 5 зледзяненняў (дунайскае, гюнцкае, міндэльскае, рыскае, вюрмскае зледзяненні) і 4 міжледавікоўі.

На Беларусі ёсць некалькі стратыграфічных схем падзелу А. Паводле уніфікаванай схемы, зацверджанай у 1981, на тэр. Беларусі вылучаюць марэнныя комплексы нараўскага, бярэзінскага, дняпроўскага, сожскага, паазерскага, зледзяненняў і белавежскага, александрыйскага, шклоўскага, муравінскага міжледавікоўяў. Агульная магутнасць антрапагенавых адкладаў на тэр. Беларусі дасягае 300 м. З імі звязаны радовішчы буд. матэрыялаў, паліва (торфу), водазабеспячэнне, на іх аснове фарміруюцца глебы. Яны ўтвараюць сучасны рэльеф, які мае моцны адбітак акумуляцыйнай дзейнасці ледавікоў. У іх засталіся і дзе-нідзе захаваліся археал. рэшткі.

*Літ.:* 223, 297, 1267. *А. Г. Калечыц.*

**АНТРАПАГЕНЕ́З** (грэч. ánthrōpos чалавек + génesis паходжанне), раздзел *антрапалогіі*, які вывучае станаўленне чалавека як біялагічнага віду ў працэсе фарміравання грамадства, г. зн. сацыягенезу. Сучасная тэорыя А. дае адказ на пытанні: калі, дзе і пры якіх абставінах паявіўся чалавек на Зямлі.

Тэорыя эвалюцыі грунтуецца на выніках біялагічных і грамадскіх навук. Палеаантрапалогія, параўнаўчая біялогія, палеадэмаграфія паказваюць марфалагічныя якасці істот, якія развіваюцца, у цеснай сувязі з умовамі асяроддзя, вызначаюць іх колькасць і ўзроставую структуру. Эвалюцыйная генетыка назапасіла прамыя доказы існавання прыроднага адбору і распрацавала метады яго матэматычнага мадэліравання. Псіхалогія, эвалюцыйная марфалогія мозга вывучаюць узнікненне мыслення і мовы ў працэсе станаўлення чалавека. Этнаграфія дазваляе правесці аналогіі ў грамадскіх суадносінах стараж. людзей. Факты, якія пацвярджаюць роднасныя сувязі чалавека і жывёл, падзяляюцца на прамыя (касцявыя рэшткі выкапнёвага чалавека, яго бліжэйшых продкаў і блізкіх да іх форм) і ўскосныя (параўнальна-анатамічныя, фізіялагічныя, біяхімічныя, генетычныя і інш.) доказы.

Асн. прынцыпы навук. тэорыі А. (роднасць продка чалавека з чалавекападобнымі малпамі — шымпанзэ, гарылай, арангутангам) абгрунтавалі ў канцы 19 ст. Ч. Дарвін, Т. Гекслі.

Вывучэнне выкапнёвых рэштак паказала, што ў чалавека і ў сучасных малпаў былі агульныя продкі, якія насялялі Афрыку, Азію, часткова Еўропу больш як 20 млн г. таму назад. У біялагічнай эвалюцыі чалавека вылучаюць паслядоўныя стадыі: пераходных істот, або аўстралапітэкаў (Homo habilis — чалавек умелы), што паявіліся на Зямлі каля 17 млн г. таму назад; найб. стараж. людзей — *архантрапаў*, якія жылі каля 1 млн г. таму назад, з гэтага часу прасочваюцца расавыя асаблівасці; палеаантрапаў (гл. *Неандэртальцы*), яны паявіліся 100—35 тыс. г. таму назад; сучасны чалавек (Homo sapiens), існаванне яго на Зямлі каля 50 тыс. г. Правільнае разуменне фактараў А. грунтуецца на тэорыі Ф. Энгельса пра галоўную ролю працы ў працэсе ператварэння малпы ў чалавека. Паводле гэтай тэорыі важнымі фактарамі А. былі прыстасаванне да навакольнага асяроддзя праз працоўную дзейнасць і пераход ад раслiннай ежы да мясной, выкліканы пагаршэннем умоў жыцця ў ледавіковую эпоху. Развіццё грамадства (сацыягенез) адбывалася разам з біялагічнай эвалюцыяй чалавека. Першыя прылады працы паявіліся на стадыі чалавека ўмелага. Мова як сродак зносін людзей сфарміравалася на стадыі архантрапа. Ідэалагічныя ўяўленні пачалі фарміравацца на стадыі палеаантрапаў і працягваюць развівацца ў людзей пазнейшых відаў. Культурныя адрозненні — аснова сучасных этнічных асаблівасцей — праявіліся на стадыі палеаантрапаў і прасочваліся ў асаблівасцях вырабаў прылад працы: у адных плямён пераважалі макралітычныя прылады, у другіх — мікралітычныя.

Тэр. Беларусі пачала засяляцца ў палеаліце чалавекам неандэртальскай стадыі, пра што сведчаць археал. стаянкі *Бердыж* і *Юравічы*. Пасля адступлення ледавіка ў эпоху мезаліту тэр. Беларусі канчаткова засялялі *краманьёнцы* — людзі сучаснага тыпу.

*Літ.:* 149, 180, 933, 1167, 1382.

*Л. І. Цягака.*

**АНТРАПАЛАГІ́ЧНЫЯ ТЫПЫ,** групы людзей у расавай класіфікацыі з комплексам агульных марфалагічных прыкмет (будова цела, шкілета, чэрапа, колер скуры, вачэй, валасоў і інш.); дробныя адзінкі адной *расы*. Фарміраванне А. т. адбывалася на падставе спадчынных асаблівасцей, якія склаліся за многія пакаленні пад уздзеяннем прыродных і сацыяльных фактараў.

Узаемапераходы паміж вял. расамі праз мноства А. т. абумоўлены панэйкуменным рассяленнем і ўзаемадзеяннем чалавецтва. Арэалы распаўсюджання А. т. звычайна не супадаюць з этнічнымі ці дзяржаўнымі межамі, бо не супадаюць час і заканамернасці фарміравання гэтых супольнасцей. Да аднаго А. т. могуць належаць некалькі розных народаў, што сведчыць пра іх фарміраванне на генетычна роднаснай аснове, або адзін народ складаецца з некалькіх А. т. у выніку неаднароднасці яго паходжання. Адносная стабільнасць А. т. у часе і прасторы, абумоўленая спадчыннасцю, улічваецца пры этнагенетычных даследаваннях для вызначэння генетычнай роднасці пэўных этнатэрытарыяльных груп або выяўленні напрамку і ступені іншароднай прымесі як выніку гіст. перамяшчэнняў і скрыжаванняў розных плямён і народнасцей. Некаторыя тэарэтыкі памылкова сцвярджаюць нязменнасць А. т., іх біялагічныя асаблівасці лічаць рашаючым фактарам у грамадскім і культурным развіцці пэўных этнасаў. Аднак прыкметы, якімі адрозніваюцца паміж сабою А. т., не з'яўляюцца жыццёва важнымі для чалавека, ніяк не звязаны з яго псіхікай, таму не могуць уплываць на гіст. развіццё грамадства.

На тэр. Беларусі Я. М. Чапуркоўскі вылучыў (1913) 2 А. т.: светлы доўгагаловы ў басейнах Зах. Дзвіны

і Нёмана і светлы круглагаловы на Палессі. В. В. Бунак удакладніў адрозненні паміж жыхарамі паўночных (верхнедняпроўскі А. т.) і паўднёвых (палескі А. т.) рэгіёнаў рэспублікі: сярод першых часцей сустракаюцца больш светлыя адценні вачэй і валасоў, увагнутая спінка носа, больш высокі рост. На падставе вывучэння расавых рыс выкапнёвых рэшткаў з усх.-слав. курганоў 10—13 ст. Г. Ф. Дэбец (1932), Т. А. Трафімава (1946), Т. І. Аляксеева (1973) характарызавалі жыхароў тэр. Беларусі як доўгагаловых з шырокім і нізкім тварам, больш масіўных у паўн. групах, якія маюць падабенства да тагачаснага насельніцтва сумежных раёнаў Прыбалтыкі. Даследаванні групы антрапалогіі Ін-та мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі, распачатыя ў 1966, пацвердзілі вынікі папярэдніх даследаванняў і пашырылі антрапал. характарыстыку стараж. і сучаснага насельніцтва Беларусі. Большая колькасць рэшткаў шкілетаў з курганных могільнікаў 10—14 ст. розных рэгіёнаў Беларусі сведчыць не толькі пра значнае падабенства ўсіх тэрытарыяльных груп, але паказвае і лакальныя асаблівасці — менш выяўленыя еўрапеоідныя рысы ва ўсх. рэгіёне. Два шкілеты бронзавага веку (адзін з Гродзенскай, другі з Гомельскай абласцей) маюць тыя ж адрозненні. Пра пераемнасць А. т. у пакаленнях на працягу апошняга тысячагоддзя сведчыць супастаўленне выкапнёвых рэшткаў шкілетаў насельніцтва 10—14 ст. і 18—19 ст. (напр., ідэнтычныя прапорцыі твару). Аднак на тэр. Беларусі, як і на большай частцы Еўропы, за апошняе тысячагоддзе змянілася форма галавы з падоўжанай (доліхакефальнай) да акруглай (брахікефальнай, т. зв. працэс брахікефалізацыі); менш масіўным стаў шкілет (працэс грацыялізацыі). Як і ва ўсім свеце, у беларусаў за апошняе стагоддзе назіраецца працэс акселерацыі (больш інтэнсіўны рост цела ў даўжыню, больш ранняе выспяванне арганізма), таму сучасныя пакаленні больш рослыя, чым іх аднагодкі пач. 20 ст.

У сучаснага насельніцтва, акрамя асаблівасцей, адзначаных Бунакам, назіраецца невялікае паслабленне з ПдЗ на ПдУ еўрапеоідных рыс: больш нізкае і шырокае пераноссе, часцей сустракаюцца мяшаныя адценні колераў вачэй (шэрыя, зеленаватыя, нават карычневыя), расце менш густая барада. Аднак адрозненні гэтыя невялікія, і ўсе лакальныя А. т. звязаны паміж сабой узаемапераходамі. Тэрытарыяльнае размеркаванне асаблівасцей будовы твару і цела, дэрматагліфічных (варыяцыі скурных малюнкаў на далонях і ступнях), аданталагічных (структурныя асаблівасці зубной сістэмы) прыкмет, груп крыві дазваляе аднесці беларусаў да ўсходнееўрапейскага варыянта (балтыйскага тыпу па класіфікацыі М. М. Чабаксарава) еўрапеоіднай расы. Падабенства А. т. беларусаў з рускімі, украінцамі, літоўцамі і латышамі ў сумежных з адпаведнымі рэспублікамі раёнах гістарычна абумоўлена этнічнымі і генетычнымі сувязямі ў кантактных зонах.

*Літ.:* 54, 179, 352, 642, 1038, 1039, 1041, 1165, 1166, 1167, 1168, 1169.

*І. І. Салівон.*

**АНТРАПАЛО́ГІЯ** (грэч. ánthrōpos чалавек + lógos навука), галіна прыродазнаўства, якая вывучае паходжанне, эвалюцыю і заканамернасці зменлівасці біялагічных асаблівасцей чалавека і яго рас. А. цесна звязана з прыродазнаўча-гістарычнымі і сацыяльнымі навукамі, паводле Ф. Энгельса, ажыццяўляе пераход ад марфалогіі і фізіялогіі чалавека і яго рас да гісторыі. Мае 3 асн. раздзелы. *Антрапагенез* — вучэнне пра паходжанне чалавека і яго месца ў жывёльным свеце. Расазнаўства вывучае прычыны ўтварэння, заканамернасці фарміравання і ўзаемадзеяння рас, зменлівасці расавых тыпаў у прасторы і часе. У межах гэтага раздзела этнічная А. разам з археалогіяй, гісторыяй, этнаграфіяй, мовазнаўствам вывучае праблемы этнагенезу — фарміравання розных этнасаў (плямён, народаў).

М а р ф а л о г і я выяўляе заканамернасці зменлівасці будовы цела і органаў чалавека ў залежнасці ад спадчыннасці, умоў жыцця і працы. Уключае сamaталогію (узроставыя варыяцыі будовы цела сучаснага чалавека), мералогію (варыяцыі асобных органаў арганізма), дэрматагліфіку (варыяцыі скураных малюнкаў на далонях і ступнях), аданталогію (структурныя асаблівасці зубной сістэмы сучасных і выкапнёвых людзей і вышэйшых малпаў), палеаантрапалогію (варыяцыі структур рэшткаў шкілета выкапнёвых людзей і вышэйшых малпаў). З 1960-х г. вылучаны яшчэ 2 раздзелы: ф і з і я л а г і ч н а я А. вывучае варыяцыі функцыянальных асаблівасцей арганізма чалавека і працэсы яго адаптацыі ў розных кліматычна-геаграфічных і сацыяльных умовах; а н т р а п а г е н е т ы к а рэканструюе радаслоўную папуляцый на падставе вывучэння заканамернасцей размеркавання антрапалагічных прыкмет з простым наследаваннем, якія не змяняюцца на працягу жыцця (напр., групы крыві).

Першыя звесткі пра А. ёсць у працах Герадота (5 ст. да н. э.), Арыстоцеля (4 ст. да н. э., увёў тэрмін А. як вучэнне пра духоўную прыроду чалавека), Лукрэцыя Кара (1 ст. да н. э.). Вялікія геаграфічныя адкрыцці 15—16 ст. далі магчымасць пазнаёміцца з народамі Амерыкі, Акеаніі, Усх. Азіі, у т. л. Усх. Сібіры і інш. і распачаць сістэматызацыю чалавечых рас. Эвалюцыйная тэорыя Ч. Дарвіна абвергла тэалагічнае вучэнне пра паходжанне чалавека і садзейнічала развіццю тэорыі антрапагенезу. Як самастойная навука А. сфарміравалася ў 19 ст. Антрапалагічныя ўстановы ўзніклі ў Парыжы (1859), Лондане (1863), Мадрыдзе (1865), Берліне (1869), Вене (1870), Стакгольме (1873). Па ініцыятыве А. П. Багданава ў 1864 арганізаваны антрапалагічны аддзел Т-ва аматараў прыродазнаўства пры Маскоўскім ун-це, а ў 1879 — антрапалагічная выстаўка, экспанаты якой сталі асновай Музея антрапалогіі пры Маскоўскім ун-це. Антрапалагічнае т-ва ўзнікла ў 1879 пры Ваенна-медыцынскай акадэміі ў Пецярбургу. У 2-й пал. 19 ст. А. збірала звесткі пра розныя расавыя тыпы, палеаантрапалагічныя матэрыялы, распрацоўвала і уніфікавала методыку іх збору. Абвастрэнне супярэчнасцей паміж метраполіямі і калоніямі ў канцы 19 ст. спрыяла ўзнікненню антынавук. тэорый расізму, якія апраўдвалі эксплуатацыю і знішчэнне каланіяльных народаў. Прагрэсіўныя антраполагі выкрывалі рэакцыйную сутнасць расізму. Планамерныя даследаванні фізічнага развіцця, антрапалагічнага складу народаў СССР пачаліся пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі. Ідэі біялагічнай паўнацэннасці ўсіх рас, закладзеныя ў працах К. М. Бэра, Багданава, Дз. М. Анучына, М. М. Міклухі-Маклая, развіты ў даследаваннях сав. вучоных В. В. Бунака, Я. Я. Рагінскага, Г. Ф. Дэбеца, Г. А. Бонч-Асмалоўскага, М. Р. Левіна, М. М. Чабаксарава, В. П. Аляксеева, А. А. Зубава і інш.

Даследаванні антрапалагічнага складу беларусаў пачаліся ў канцы 19 — пач. 20 ст. Іх праводзілі Анучын (1889), М. А. Янчук (1890), К. М. Ікаў (1890), А. Н. Раждзественскі (1902), А. Л. Здраеўскі (1905), А. А. Піянткоўскі (1905). Фізічны тып і паходжанне беларусаў Палесся, зах. і ўсх. абласцей вывучаў Ю. Д. Талька-Грынцэвіч. Вынікі папярэдніх даследаванняў абагульнілі А. А. Іваноўскі (1905), Я. М. Чапуркоўскі (1918). У 1926 па ініцыятыве А. К. Ленца пры Інбелкульце створана антрапалагічная камісія, рэарганізаваная пазней у кафедру антрапалогіі Беларускай АН. Пачаліся планамерныя даследаванні (вымярэнне насельніцтва ў спалучэнні з вывучэннем груп крыві і нервовай дзейнасці) у Слуцкім, Мазырскім, Магілёўскім, Аршанскім р-нах. Вынікі гэтых даследаванняў выкладзены ў працах Ю. М. Верамецкай, П. Я. Вішнеўскага, А. А. Смірнова, Д. Н. Эйнгорна. У 1920—30-я г. Бунак вывучаў фізічны тып і размеркаванне груп крыві ў беларусаў, даследаваў краніялагічныя калекцыі сярэдневяковага насельніцтва Беларусі. Па больш шырокай краніялагічнай праграме антрапалагічны тып усх.-слав. насельніцтва пач. 2-га тысячагоддзя н. э. вывучалі Дэбец, Т. А. Трафімава, В. В. Сядоў, Т. І. Аляксеева. Антрапалагічны склад жыхароў БССР планамерна вывучала ў 1955—59 антрапалагічная экспедыцыя Ін-та этнаграфіі АН СССР, што адлюстравана ў працах М. У. Вітова, Р. Я. Дзянісавай, Бунака, У. Дз. Дзячэнкі. У 1965 пры Ін-це мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР створана група А., якая праводзіць комплексныя антрапал. даследаванні: фізічнага тыпу старажытнага (І. І. Салівон, А. І. Кушнір) і сучаснага

насельніцтва Беларусі (Салівон), заканамернасцей росту і развіцця вучняў у розных рэгіёнах рэспублікі (Салівон, Н. І. Поліна), дэрматагліфічных і адanталагічных асаблівасцей (Л. І. Цягака), размеркаванне крыві і інш. генетычна абумоўленых прыкмет у сельскага насельніцтва (А. І. Мікуліч), генадэмаграфічныя — у гарадах рэспублікі (В. У. Марфіна). У Мінскім медыцынскім ін-це вывучаецца спадчынласць дэрматагліфічных прыкмет (І. С. Гусева) і размеркаванне некаторых марфалагічных прыкмет у блізнят (Р. У. Дэрфліо), у НДІ аховы мацярынства і дзяцінства — фізічнае развіццё сельскіх вучняў Бел. Палесся (Г. І. Вярэніч), у Ін-це культуры — палеапаталогія (Л. М. Казей). У выніку раскопак супрацоўнікамі аддзелаў археалогіі Ін-та гісторыі АН БССР (Ш. І. Бекцінееў, Л. У. Дучыц, Ю. А. Заяц, Я. Г. Звяруга, Т. М. Каробушкіна, А. В. Квяткоўская, П. Ф. Лысенка, Г. В. Штыхаў) і Ленінградскага аддзялення Ін-та археалогіі АН СССР (Ф. Д. Гурэвіч, К. В. Паўлава) з 1960-х г. значна папоўнілася астэалагічная калекцыя па насельніцтву 10—13 ст., з'явіліся матэрыялы па 14—17 ст.

У выніку раскопак Салівон створана калекцыя па сельскім насельніцтве Беларусі 18—19 ст., якая дазволіла ўдакладніць тэрытарыяльныя асаблівасці і зменлівасць антрапалагічнага складу жыхароў на тэр. Беларусі ў апошнім тысячагоддзі. Знаходкі М. М. Чарняўскага ў Гродзенскай вобл. (Ваўкавыскі р-н, культура шнуравой керамікі) і А. Г. Калечыц у Гомельскай (Веткаўскі р-н, сярэднедняпроўская культура) шкілетаў 2 мужчын сярэдняга ўзросту дазволілі намеціць вытокі аслабленай еўрапеоіднасці, адзначанай сярод пазнейшых папуляцый.

*Літ.:* 1163, 1167. *І. І. Салівон.*

**АНТРАПАМЕ́ТРЫЯ** (грэч. ánthrōpos чалавек + metréō вымяраю), адзін з прыёмаў антрапалагічнага даследавання, які заключаецца ў вымярэнні чалавечага цела і яго частак для ўстанаўлення полавых, узроставых, расавых і інш. структурных асаблівасцей. Вылучаюць вымярэнні: цела — саматаметрыю, касцей шкілета — астэаметрыю, чэрапа — краніяметрыю.

Для дакладнага вымярэння і фіксацыі прыкмет існуюць спец. інструменты (цыркулі, антрапаметры, ганіёметры, стужкі і інш.). Для якаснай характарыстыкі прыкмет, якія нельга вымяраць (рысы твару, колер скуры, валасоў, вачэй і інш.), складзены спец. шкалы.

**АНТРАПАМО́РФНЫЯ ВЫЯ́ВЫ** (грэч. ánthrōpos чалавек + morphē форма, від), узнаўленне ў мастацкіх вырабах выяўленчымі сродкамі аблічча чалавека. А. в. стараж. часу падзяляюцца на графічныя і скульптурныя (у т. л. рэльефныя), узровень іх выканання адпавядае агульнаму ўзроўню развіцця мастацтва і залежыць ад светапогляду, што панаваў у той ці іншы час. На ранніх этапах гісторыі мелі пераважна культавае прызначэнне.

Самая стараж. А. в., знойдзеная паблізу тэр. Беларусі,— статуэтка маладой жанчыны са стаянкі *Елісеевічы* (Бранская вобл.), зробленая з біўня маманта, адносіцца да эпохі верхняга палеаліту. Вылучаецца сярод аналагічных твораў значнай ступенню рэалістычнасці і стараннасцю выканання. Самая ранняя графічная А. в. вядома па гравіраваных малюнках на косці, выяўленай на неалітычным паселішчы каля воз. Вячэра (Любанскі р-н). Выявы людзей трапляюцца таксама на



**Антрапаморфная выява** на сценцы гаршка 3-га тысячагоддзя да н. э. з паселішча Добры Бор Баранавіцкага р-на.

гліняным посудзе з неалітычнага паселішча *Юравічы* (Калінкавіцкі р-н) і паселішча позняга неаліту — ранняга бронзавага веку *Асавец* (Бешанковіцкі р-н). Мяркуюць, што на знаходцы з Юравіч адлюстраваны нейкі міфалагічны сюжэт. У Асаўцы знойдзены і аб'ёмныя А. в. Адна з іх, выразаная з цвёрдага лісцевага дрэва, перадае вобраз мужчыны з выразнымі рысамі твару. Другая знаходка — галоўка ад рагавой статуэткі мужчыны, якая адлюстроўвае чалавека з высокім ілбом і выцягнутым авальным тварам з вострай бародкай. На думку даследчыкаў, абедзве скульптуркі ўяўляюць сабой еўрапеоідны антрапалагічны тып і ў пэўнай меры адлюстроўваюць рысы канкрэтных людзей. У адрозненне ад палеаліту, калі галоўным у мастацтве быў паказ цела жанчыны, біялагічнага пачатку ў чалавеку, неалітычныя мастакі стараліся больш паказаць твар, паколькі чалавек усё больш усведамляў сябе мыслячай істотай.

У перыяд позняга бронзавага веку і асабліва ў жалезным веку амаль знікае арнамент на кераміцы, невядомы таксама графічныя і скульптурныя выявы людзей. Магчыма, гэта звязана са зменамі ў светапоглядзе стараж. людзей. Да 6—8 ст. н. э. адносіцца скарб каля в. Хоцішча Слаўгарадскага р-на, у якім, акрамя інш. упрыгожанняў, былі 3 бронзавыя з пазалотай бляшкі з выявамі птушыных галовак і выпуклай фігуркай чалавека. Яны звязаны з помнікамі *калочынскай культуры.*

Да позняга перыяду першабытнай эпохі і да ранняга феадалізму належаць выяўленыя ў розных мясцінах Беларусі каменныя і металічныя язычніцкія ідалы. Знаходкі іх вядомыя па шляху з Рэчыцы ў Бабруйск (чатырохтвары ідал), каля Шклова (гл. *Шклоўскі ідал*), Слоніма (гл. *Слонімскі ідал*), Полацка, Барысава і інш. Несумненна, значна больш было драўляных ідалаў, якія не захаваліся. Пасля прыняцця хрысціянства ў канцы 10 ст. ідалы пачалі знішчаца або перарабляцца ў крыжы. Такія перароблены ў крыжы ідалы вядомы ў ваколіцах вёсак Даўгінава Вілейскага, Грабаўцы і Залуззе Жабінкаўскага р-наў і інш.

У перыяд феадалізму ў адрозненне ад першабытнага часу побач з народным паяўляецца прафесійнае мастацтва, на якое значны ўплыў аказвала мастацтва Візантыі, Балгарыі і інш. еўрапейскіх краін з багатымі традыцыямі жывапісу, кніжнай мініяцюры, дробнай пластыкі. А. в. ёсць на фрэсках полацкіх Сафійскага сабора і Спаса-Ефрасіннеўскай царквы. Яны звязаны з рэлігійнымі хрысціянскімі сюжэтамі, многія з іх напісаны ў класічнай візантыйскай манеры, у некаторых наглядаецца адыход ад візантыйскіх узораў. Вял. мастацкую каштоўнасць маюць фрэскавыя размалёўкі 12 ст. Віцебскай царквы Звеставання (Благавешчанскай), дзе ёсць не толькі выявы анёла, але і воіна. А. в. сустракаюцца ў размалёўках стараж. храма ў Гродне. Шмат антрапаморфных сюжэтаў ёсць на кніжных мініяцюрах Аршанскага Евангелля, Ізборніка Святаслава 1073, Кодэкса Гертруды, Служэбніка Варлаама Хутынскага і інш. У дробнай пластыцы А. в. трапляюцца сярод шахматных фігурак, знойдзеных у Лукомлі, Ваўкавыску, Брэсце, Гродне і інш. У іх часцей перададзены канкрэтныя рысы не святых, а менавіта свецкіх персанажаў. Свецкія сюжэты сустракаюцца на касцях са скандынаўскімі рунамі 12—13 ст. з гарадзішча Маскавічы (Браслаўскі р-н). Да твораў дробнай пластыкі з выявамі людзей належаць каменныя і металічныя абразкі з Полацка, Гродна, Пінска, Мінска, Гарадзішча (Мінскі р-н), Ваўкавыска, Копысі і інш., якія адносяцца да 12—13 ст., а таксама выявы на пячатках, у фігурах кампазіцыі на крыжы Ефрасінні Полацкай.

У 14—16 ст. шматлікія выявы людзей трапляюцца сярод твораў жывапісу (у гэты час на Беларусі развіваўся партрэтны жанр), у разьбе, скульптуры, кніжных мініяцюрах (мініяцюры Радзівілаўскага летапісу), гравюрах першых друкаваных выданняў (у т. л. гравюрах Ф. Скарыны), творах дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, кафлі.

*Літ.:* 232. *Э. М. Зайкоўскі.*

**АНТРАПІ́ЧНЫЯ ФА́КТАРЫ,** а н т р а п а г е н н ы я ф а к т а р ы, комплекс разнастайных уздзеянняў чалавека на арганічны свет і навакольнае асяроддзе. Сярод А. ф. найбольшае значэнне мае вытворчая дзейнасць чалавека, у працэсе якой

змяняецца рэльеф і хімічны састаў зямной паверхні, састаў і ўласцівасці атмасферы, клімат.

Адны віды жывёл знішчаюцца, для другіх фарміруюцца звышаптымальныя ўмовы, трэція знікаюць з-за змянення асяроддзя іх пражывання. Паводле сучасных уяўленняў, тэрмін «А. ф.» павінен мець перавагу перад сінонімам антрапагенны фактар з-за неадназначнасці яго тлумачэння. Вядучымі А. ф. на тэр. Беларусі ў гіст. час з'яўляліся знішчэнне лясоў, разворванне зямель і звязаныя з імі змяненні воднага рэжыму, палявання і земляробства.

*Н. П. Александровіч.*

**АНТЫ́ЧНЫЯ ЗНАХО́ДКІ.** Тэрыторыя Беларусі не была ў зоне непасрэднага ўплыву антычнай цывілізацыі. Рэчы антычнага паходжання траплялі да жыхароў вярхоўяў Дняпра шляхам менавога гандлю і інш. кантактаў з паўд. суседзямі, у т. л. скіфамі. Насельніцтву мілаградскай культуры былі вядомы паставыя і шкляныя пацеркі розных форм і разнастайнай каляровай гамы, у т. л. залачоныя *(Асарэвічы, Гарошкаў, Любны, Мілаград).* Выяўлены таксама пацеркі антычнага паходжання з халцэдону, бурштыну, бронзы. У плямён зарубінецкай культуры антычны імпарт быў больш разнастайны, акрамя шматлікіх шкляных пацерак, выяўлены фрагменты грэч. амфар і шкляных пасудзін *(Чаплін, Івань, Мыслі).* На паселішчах эпохі Кіеўскай Русі знаходзяць рымскія паставыя і шкляныя пацеркі, абломкі глінянага чырваналакавага і бронзавага посуду *(Адаменка, Тайманава),* скарбы і адзінкавыя знаходкі рымскіх дэнарыяў 1—3 ст., манет Баспора, Фракіі, пталамееўскага Егіпта (Чаплін, Гарошкаў). Мясцовыя майстры выраблялі ўпрыгожанні з эмаллю (гл. *Абідзенскія эмалі),* сярэбраныя паясы з чырвонай эмаллю і бронзавымі дэталямі *(Красны Бор),* жал. фібулы, шпількі, бранзалеты, дроцікі, умбон скіфскага і рымскага тыпаў.

*Літ.:* 772, 904, 1585.

*А. А. Егарэйчанка.*

**АНУ́СІНА,** курганныя могільнікі 11 — пач. 12 ст. каля в. Анусіна Мінскага р-на.

Могільнік-1. За 150 м на З ад паўн. ускраіны вёскі, за 400 м ад р. Свіслач, на ўзгорку. 50 (было 80) насыпаў дыям. 5—7 м і выш. да 1 м, часткова пашкоджаны ямамі. У 1983 выявіў і абследаваў Э. М. Зайкоўскі, раскапаў 4 курганы Ю. А. Заяц. Пахавальны абрад — трупапалажэнне галавой на З у падкурганных ямах глыб. 0,3—0,6 м, выкапаных на месцы рытуальных вогнішчаў.

У адным з курганоў вогнішча абкладзена камянямі. У жаночым пахаванні знойдзены скроневыя кольцы (пярсцёнкападобныя з заходзячымі канцамі і з адваротным завітком на адным з іх), шкляныя бачачкападобныя і цыліндрычныя пазалочаныя пацеркі, бронзавыя пярсцёнак, ланцужок, бразготка з крыжападобнай прораззю.

Могільнік-2. За 600 м на З ад вёскі, у лесе. 22 круглыя курганы дыям. 5—7 м і авальныя памерамі 8×7—9×8 м, выш. 0,7—1,5 м. Каля аднаго з насыпаў серпападобныя ямы. У 1988—89 Заяц раскапаў 6 курганоў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на грунце і ў падкурганных ямах глыб. 0,4—0,6 м галавой на З.

У 4 насыпах каменныя агароджы, у адным з іх — імітацыя агнішча ці печы-каменкі. У 4 насыпах прасочаны рэшткі рытуальных вогнішчаў. Пахаванні належаць дрыгавічам, крывічам і, магчыма, славянізаваным балтам. Знойдзены пярсцёнкападобныя трохпацеркавыя, бранзалетападобныя з завязанымі канцамі скроневыя кольцы, пярсцёнкі, спражка, сердалікавыя і шкляныя пацеркі.

*Літ.:* 419.

*Ю. А. Заяц.*



**Апрацоўка жалеза.** Папярочныя сячэнні ляза нажоў (светлыя ўчасткі — жалеза, цёмныя — сталь).

**АПО́НАЎЦЫ,** бескурганны могільнік балтаў каля в. Апонаўцы Воранаўскага р-на. За 500 м на ПнУ ад вёскі, на пакатым узвышшы, выцягнутым з У на З. Памеры 150×80 м. Пахаванні (больш за 200) двух тыпаў: больш стараж. каменныя мурожкі на могілках у 3—4 паралельныя радкі, форма муру прамавугольная; мурожкі пазнейшага часу авальнай формы з 1—2 вял. камянямі ў галавах і нагах. Адкрыў у 1887 і даследаваў 14 пахаванняў у 1891 В. А. Шукевіч, у 1888 даследаваў 51 пахаванне Э. А. Вольтэр. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў ямах глыб. 0,6—1,3 м, нябожчыкі абкладзены дошкамі.

У запаўненні магіл выяўлены вугальныя праслойкі. У мужчынскіх пахаваннях знойдзены баявыя сякеры, жал. нажы і кінжалы, крэсівы, паясныя рамяні, упрыгожаныя бронзай, спражкі, у жаночых — сярэбраныя (адзін з выявай птушкі) і бронзавыя пярсцёнкі, скроневыя кольцы, бронзавыя бранзалеты і завушніцы, бразготкі, бронзавыя бляшкі рознай формы ад галаўнога ўбору, абшытыя дробнымі шклянымі пацеркамі, кавалкі тканіны адзення, пражскія грошы 15 ст. і літоўскія дэнарыі 14—15 ст., у т. л. дэнарый Вітаўта з надпісам «печать» на адным баку і выявай кап'я і крыжа на другім (пач. 15 ст.). Датуецца 13—15 ст.

*Літ.:* 270, 1124, 1126.

*А. В. Квяткоўская.*

**АПРАЦО́ЎКА ЖАЛЕ́ЗА.** На Беларусі вядома з часоў узнікнення металургіі жалеза з мясцовых балотных і лугавых руд (сярэдзіна 1-га тысячагоддзя да н. э., шматлікія знаходкі шлакаў), звязана з дзейнасцю майстроў *мілаградскай культуры.* Выраб прылад працы на раннім этапе А. ж. вёўся простым прыёмам коўкі для падрыхтоўкі крычнага металу і надання яму неабходнай формы. Практыкавалася т. зв. свабодная коўка металу, нагрэтага ў *горне* да адпаведнай тэмпературы. Горнавая зварка дазваляла атрымліваць масіўныя загатоўкі шляхам злучэння невял. пракаваных крыц «унакладку» і пакетаваннем сыравіны (спалучаліся аперацыі коўкі, складання і зваркі). У выніку атрымлівалася шматпалосная структура металу. З дапамогай зваркі выраблялі ўтулкі сякер-кельтаў, наканечнікаў коп'яў і інш. Зрэдку ўжывалася *цэментацыя* жалеза і сталі. Большасць прадукцыі рабілі з крычнага жалеза ці нераўнамерна навугляроджанай сталі. Такая тэхналогія А. ж. была ў плямён зарубінецкай і штрыхаванай керамікі культур. Мала чым адрознівалася прадукцыя кавалёў днепра-дзвінскай культуры, хоць іх сярпы, сякеры і інш. прылады працы вызначаліся своеасаблівай формай. Майстры кіеўскай культуры (2—5 ст. н. э.) часцей выкарыстоўвалі цэментацыю і загартоўку стальных вырабаў. Кавалі пражскай, калочынскай і банцараўскай культур у 3-й чвэрці 1-га тысячагоддзя карысталіся традыцыйнымі прыёмамі пластычнай дэфармацыі і зваркі, але найбольш пакетаваннем сыравіны для вырабу ляза сякер, нажоў, сярпоў. У эпоху Кіеўскай Русі А. ж. адзначана ўздымам узроўню апрацоўчай тэхнікі і тэхналогіі. Узрасла вытворчасць цэментаванай і томленай сталі. Кавалі валодалі прыёмамі злучэння жалеза з вугляродзістай сталлю. У 10—11 ст. шырока ўжывалася трохпалосная тэхналагічная схема вырабу камбінаваных прылад працы з жалеза і сталі: да цэнтр. стальной рэжучай пласціны з абодвух бакоў прыварвалі жал. пласціны; на заключным этапе апрацоўкі праводзілася загартоўка вырабу. У 12—13 ст. з павелічэннем асартыменту кавальскай прадукцыі мянялася і тэхналогія яе вытвор-

часці: на жал. аснову ляза наварвалася стальная рабочая частка, якую потым загартоўвалі. З ускладненнем формы кавальскага інструменту павялічвалася прадукцыйнасць працы майстроў. Выкарыстанне горнавага паяння (прыпой — медзь і яе сплавы) у складаных канструкцыях значна скарачала час вытворчасці прадукцыі. А. ж. ўскладнялася вырабам узорыстага ляза, аздабленнем вырабаў насечкай, пакрыццём прадметаў ахоўнымі плёнкамі з каляровых металаў і інш.

У эпоху Вял. кн. Літоўскага і Рэчы Паспалітай (14—18 ст.) тэхналагічныя схемы выканання традыцыйных вырабаў спрошчваюцца. Павялічваецца выраб суцэльнастальной прадукцыі, хаця па-ранейшаму наварка стальнога ляза на жал. аснову захоўваецца. У 17—18 ст., напр., лязо нажоў і стальную спінку наварвалі жалезам, што ў эксплуатацыі гэтай прылады не патрабавалася. Магчыма, такія вырабы зроблены з паўфабрыкатаў у выглядзе палос з наваранымі з абодвух бакоў стальнымі краямі, выраб якіх скарачаў тэхналагічны працэс і не патрабаваў у майстра высокай кваліфікацыі. У познафеадальны перыяд пачынаецца масавая выплаўка чыгуну. Выкарыстоўваючы замежны вопыт і спецыялістаў, у ліцейных майстэрнях Беларусі выраблялі гарматы і боепрыпасы, розныя прадметы гасп. ўжытку, дэталі машын і механізмаў. Паверхню вырабаў і іх рэжучыя часткі апрацоўвалі шліфавальна-тачыльнымі кругамі і брускамі (знойдзены ў Віцебску, Мінску, Полацку, на селішчах *Мачуліна, Сямёнавічы, Чэрнічы* і інш.).

*Літ.:* 276, 277, 290. *М. Ф. Гурын.*

**АПРАЦОЎКА КАМЕНЮ.** У старажытнасці камень быў асн. сыравінай, з якой выраблялі прылады працы, зброю, прадметы культу. А. к., у т. л. *апрацоўка крэменю,* вядома на Беларусі па археал. знаходках з часоў палеаліту. Наданне вырабам з каменю зручнай формы, шліфаванне, свідраванне выконвалі з дапамогай камянёў і пяскоў цвёрдай пароды. У неаліце з камянёў пачалі вырабляць сякеры, цёслы, долаты, кінжалы, наканечнікі стрэл і коп'яў, матыкі, сярпы. Знойдзеныя сякеры-молаты бронзавага веку з гранёным целам і веерападобным лязом, магчыма, былі знакамі ўлады ці прадметамі культу. З 10 ст. вядома А. к. для стварэння выяў язычніцкіх багоў (гл. *Каменныя бабы, Ідалы*), сімвалаў веры і прадметаў культу продкаў (гл. *Каменныя крыжы, Камяні з надпісамі, Камяні са знакамі*). З розных парод каменю выраблялі жорны, зерняцёркі, з пясчаніку і сланцу — тачыльныя бруск, з мяккіх парод каменю — грузікі для рыбалоўных сетак, праслліцы, састаўныя ліцейныя формы, нацельныя абразкі, пячаткі і інш. У Мазыры знойдзены сланцавыя дыскі-загатоўкі з круглымі адтулінамі ў сярэдзіне дыска. Паяўленне металу паступова адцясняла камень пры вырабе прылад працы і зброі. У буд. справе А. к. пашырылася ў 12 ст. Камяні падбіралі па пародах і колерах, адзін з бакоў часта шліфавалі. Вялікія камяні ўмуроўвалі ў ніжнія часткі сцен і абапал уваходаў у храмы. Камяні меншых памераў уводзілі ў цагляную муроўку. Акрамя гранітных валуноў, выкарыстоўваліся абчасаныя блокі вапняку або туфу, якія апрацоўвалі на буд. пляцоўцы [*Віцебская царква Звеставання* (Благавешчанская), *Навагрудская Барысаглебская царква, Мінская замкавая царква*]. У 12—13 ст. апрацоўвалі пірафілітавы сланец (шыфер), які здабывалі ў ваколіцах Оўруча або прывозілі са Скандынавіі. З яго выраблялі праслліцы, крыжыкі і саркафагі (Полацк. Тураў). Адходы апрацоўкі



**Апрацоўка каменю.** Каменныя матыкі 3—2-га тысячагоддзяў да н. э.




Расшчапленне (1), гравіроўка (2), свідраванне (3), шліфаванне (4) пры **апрацоўцы косці.**




Да арт. **Апрацоўка косці.** Апрацаваныя касцяныя грабеньчыкі (1, 3—5), птушкі-амулеты (2), шпілька-амулет (6) з селішча Пруднікі Міёрскага р-на.

вырабаў сланцавых пліт выяўлены на *Мазырскім гарадзішчы «Кімбараўка», Гарадзішчы* Мінскага р-на на р. Менка і інш.

У 14—16 ст. з граніту, пясчаніку, вапняку выраблялі ядры для гармат і каменямётаў, надмагільныя пліты і крыжы, у 16 ст. і пазней — прафіляваныя парталы дзвярэй і акон, кансолі і балясіны балконаў, аконныя рамы *(Гродзенскі Стары замак, Мірскі замак* і касцёл, Гродзенскі касцёл брыгітак).

*Літ.:* 848, 1215.

*В. Л. Ліпніцкая, А. А. Трусаў.*



Наканечнікі стрэл (1, 2), разцы (3—7), нажы (8, 9, 13, 14), скрабок (10), устаўка (11), скобля (12), цясла (15), сякера (16) са стаянкі-2 Зарэчча Бярозаўскага р-на пасля другаснай **апрацоўкі крэменю.**

**АПРАЦО́ЎКА КО́СЦІ.** На тэр. Беларусі вядома з палеаліту (абломак біўня маманта з арнаментам са стаянкі *Юравічы*). З зубоў, рагоў, плоскіх і трубчастых касцей жывёл (зрэдку з трубчастых касцей птушак) выраблялі іголкі, шылы, грабеньчыкі, гузікі, лыжкі, тронкі нажоў і кінжалаў, скрыначкі, пячаткі, амулеты, кулоны-абразы, шашкі, шахматы і інш. Апрацоўка ўключала працэсы расшчаплення, рэзання, шліфоўкі, скрабення, свідравання і паліроўкі. Расшчаплялі трубчастыя косці для вырабу невял. рэчаў (іголкі, шпількі). Аперацыі рэзання з-за складанасці часцей пазбягалі (пры неабходнасці косць крыху падразалі крамянёвымі прыладамі і потым абломлівалі). Адтуліны свідравалі ці пракалупвалі крамянёвымі адшчэпамі, асколкамі камянёў, цвёрдымі касцямі. Шліфавалі рэчы дробназярністымі камянямі. Пры вырабе шылаў, іголак, простых шпілек першапачатковая форма косці ў працэсе апрацоўкі толькі прыстасоўвалася для практычных мэт, для больш складаных рэчаў (шпілек для ўпрыгожання, грабеньчыкаў) — цалкам змянялася. Для вырабу прылад складанай формы косці перад апрацоўкай вымочвалі, награвалі, а ў больш познія часы вываркалі ў шчолаку (для выдалення тлушчу), потым ціскам ператваралі ў плоскія загатоўкі. Неабходную форму надавалі састругваннем, заточваннем, шліфоўкай, паліроўкай. Арнамент наносілі нажом, разцом, свярдзёлкам або цыркулем. У сярэднявеччы некаторыя вырабы (напр., шахматы) выточвалі на такарным станку. Рэшткі касцярэзных майстэрняў знойдзены ў Віцебску, Гродне, Копысі, Мазыры, Мсціславе і інш. Касцяныя і рагавыя арнаментаваныя вырабы выяўлены на неалітычных стаянках *(Галоўск, Асавец)*, пашыраны ў плямён ранняга жал. веку (арнаментаваныя падвескі мілаградскай і зарубінецкай культур, грэбень культуры штрыхаванай керамікі і інш.). У доўгіх курганах на Полаччыне выяўлены мініяцюрныя касцяныя фігуркі каня і качкі (2-я пал. 1-га тыс. н. э.), на гарадзішчы *Маскавічы* знойдзены косці з рунічнымі і кірылічнымі знакамі, малюнкамі на ваенную тэматыку. У 12—13 ст. А. к. дасягнула найб. росквіту (Брэст, Ваўкавыск, Віцебск, Гродна, Друцк, Копысь, Мінск, Мсціслаў, Навагрудак, Пінск, Полацк, Тураў і інш.). Высокамастацкімі ўзорамі з'яўляюцца шахматныя фігуркі, якія даюць дакладнае ўяўленне аб касцюме, прычосках, узбраенні воіна таго часу (пешка і тура з Ваўкавыска, ферзь з Лукомля, тура з воінамі з Гродна). У 13—16 ст. рознымі накладкамі з косці аздаблялі абклады кніг, абразоў, лукі, калчаны, ножны для халоднай зброі (Віцебск, Мсціслаў, Чачэрск).

*Літ.:* 50, 847, 1216а.

*А. А. Трусаў, В. І. Шадыра.*



Да арт. **Апрацоўка скуры.** Скураныя кашалёк, чахол для нажа, чаравік, пуга 12—13 ст.

**АПРАЦО́ЎКА КРЭ́МЕНЮ.** Рабілася для атрымання прылад працы зручнай формы. На тэр. Беларусі з часоў палеаліту найб. прыдатнай сыравінай быў крэмень (выяўлена шмат *шахтаў крэмнездабыўных*). Даследчыкі вылучаюць першасную і другасную апрацоўкі. Да п е р ш а с н а й адносяць расколванне каменю *адбойнікам*: ад моцнага расшчаплення канкрэцыі ці блока крэменю да лёгкага пастуквання для збівання адросткаў, выступаў, скарынкі, адшчэпаў і пласцін. Д р у г а с н а я апрацоўка ўключае выраб прылады працы сколваннем лусак, падчэсваннем, нанясеннем разнастайнай рэтушы, разцовых сколаў, шліфаваннем, свідраваннем (адтуліны ў сякеры). Правільныя тонкія пласціны, мікраліты атрымлівалі з дапамогай *адціскальніка*. У эпоху бронзы некаторыя сякеры-молаты мелі гранёнае цела, веерападобнае лязо і з'яўляліся, магчыма, знакамі ўлады ці прадметамі культу. Паяўленне металу паступова выціснула ўжыванне крэменю ў якасці прылад працы.

*В. Л. Ліпніцкая.*



Да арт. **Апрацоўка скуры.** Глянцаванне скуры.

**АПРАЦО́ЎКА СКУ́РЫ.** На тэр. Усх. Еўропы вядома з палеаліту, пра што сведчаць археал. знаходкі каменных прылад працы для А. с.: скрабкі, скрэблы, нажы, праколкі. На тэр. Беларусі А. с. вядома ўсюды з глыбокай старажытнасці. Працэс А. с. патрабаваў вял. колькасці вады, у т. л. праточнай, раслінных матэрыялаў, таму майстэрні размяшчалі на берагах рэк, ручаін, не-

вял. азёр. У дафеадальны час была хатнім рамяством на патрэбу сям'і і непарыўна звязана з шавецтвам. А. с. складалася з некалькіх этапаў: вымочванне скур і ачыстка ад бруду, знішчэнне рэштак мяса, тлушчу, мяздры і скураной клятчаткі, выдаленне і саскрабанне валасоў (вапнаю і попелам), прамыўка, квашанне (надавала скуры мяккасць і гнуткасць), дубленне (карой дуба ці вярбы, скура набывала трываласць, лепш захоўвалася), канчатковая апрацоўка. У залежнасці ад якасці і спосабу апрацоўкі атрымлівалі скуру рознага прызначэння (на абутак, на кажухі і інш.). У старажытнаславянскай мове скуру буйной рагатай жывёлы называлі юфць, казы — хъз, ніжняй часткі тулава жывёлы — чарэўе. У археал. знаходках на Беларусі часта сустракаецца апоек (скура малочных цялят), вырастак (скура цялят з раслінным харчаваннем), скура з маладняка буйной рагатай жывёлы, авечак, зрэдку трапляецца замша (са скуры лася, паўн. аленя, дзікай казы) і свіная скура. У жал. веку для А. с. карысталіся металічнымі нажамі з закругленымі вастрыямі, скрабкамі, шыламі, стругамі. На месцах былых майстэрняў па А. с. знаходзяць скураныя абрэзкі. Пры даследаванні на Полацкім Верхнім замку выяўлена майстэрня гарбара 13 ст., знойдзены чан-попельнік з поўсцю жывёл і вапнай. З выробленай скуры шылі вопратку, абутак, чахлы для нажоў, грабянёў, зброі, кашалькі, якія часта аздаблялі вышыўкай і цісненнем.

*Літ.:* 1158, 1335. *С. В. Тарасаў.*

**АПУ́ШКА**, узвышэнне па краі *поля* манеты, што захоўвае рэльефныя элементы манеты ад пашкоджання. А. звычайна рабілі ў выглядзе абадка з кропак, рысак ці суцэльнай лініі, якія з'яўляліся элементамі *штэмпеля*. Са з'яўленнем у канцы 18 ст. масавай машыннай вытворчасці манет А. стала дакладна супадаць з гранню, утворанай гуртам і полем манеты.

**АПЫТА́ЛЬНЫ ЛІСТ** у археалогіі, анкета са звесткамі пра археал. помнік у пэўнай мясцовасці. У А. л. уключаюць кароткае апісанне помніка (наяўнасць чорнага пласта зямлі, або *культурнага пласта*, валоў, насыпных узгоркаў і інш.), характэрных знаходак (косці, чарапы, абломкі посуду з пэўным арнаментам, вострыя крамяні, каменныя прылады працы і інш.), дакладнага месцазнаходжання помніка, а таксама дакладныя мясцовыя назвы: як правіла, для месцаў вытворчасці гэта гута, крыца, млынок, печы, паташня, рудня, смольня і інш.; для паселішчаў — дворышча, сяло, селішча, стадола, стараселле, царкавішча і інш.; для гарадзішч — гара, гарадзец, гарадок, замак, замчышча, курган, акоп, востраў, вал, груд, рог, роў і інш.; для курганных могільнікаў — валатоўкі, капцы, гамола, гурбы, малатоўкі, пагосты і інш.; для культавых месцаў і камянёў — барысавы, дзявочыя, лячэбнікі, пестуны, хлебнікі, храсты, стоўпнікі, янавыя камяні і інш. Сукупнасць атрыманых звестак дазваляе іншы раз высветліць тып помніка, эпоху, матэрыяльную культуру і нават каштоўнасць помніка для навукі. У 19 ст. ў сувязі са складаннем археал. карт А. л. рассылалі асобныя даследчыкі (Ф. В. *Пакроўскі*, Я. П. *Тышкевіч*, Г. Х. *Татур*, Е. Р. *Раманаў*, А. М. *Семянтоўскі*, В. А. *Шукевіч* і інш.), губернскія статыстычныя і царкоўнаархеал. камітэты, мінскі губернатар (1882), Віленскі аддзел Маскоўскага падрыхтоўчага камітэта 9-га археал. з'езда, у 20 ст.— навукова-эксперыментальная камісія пры Наркамаце асветы БССР, пазней — Гісторыка-археал. камісія Ін-та бел. культуры і інш. У сувязі з развіццём археал. навукі на Беларусі А. л. цяпер ужываюцца рэдка. *У. Ф. Ісаенка.*



Балты **арбалета** 14—15 ст. Мінск.



**Арнамент** на чаравіках. Рэканструкцыя.

**АРБАЛЕ́Т** (франц. arbalète ад позналац. arcuballista: лац. arcus лук + ballista кідальная зброя), ручная кідальная зброя ў еўрап. краінах у сярэднія вякі; удасканалены і механізаваны лук. Складаўся з драўлянага ложа-прыклада, прымацаванага да яго лукавішча, механізму нацягвання, замацавання і адпускання сутужыны, якая нацягвалася жал. кручком на рэмені, а з 13 ст. з дапамогай калаўрота. Зброя вызначалася трапнасцю стрэлу і вял. прабіўной сілай балта арбалетнага (з 300 м прабіваў рыцарскія латы, з 600 м забіваў чалавека без даспехаў). Даўж. балта 35—50 см, меў 2 крылцы-лёткі і масіўны жал. наканечнік масай 50—75 г, які мацаваўся з дапамогай дзяржання або ўтулкі (з 14—16 ст.) Большасць наканечнікаў была гранёнай або ў выглядзе гарпуна з расплюшчанай да формы шырокага ляза баявой галоўкай. Наканечнікі позняга сярэднявечча мелі большую вагу за наканечнікі 12—13 ст. Болт выкарыстоўвалі і як запальны снарад: стралу абкручвалі пакуллем, намочвалі смалой або гаручай сумессю і перад пускам падпальвалі. Адносна нізкай была хуткастрэльнасць А.: за хвіліну адзін стрэл. На Беларусі вядомы з 12—13 і да канца 16 ст. як баявая зброя, а да канца 18 ст. як паляўнічая. У 14—15 ст. А.— найважнейшая зброя пяхоты.

*Літ.:* 526, 528, 763, 1457.

*Г. М. Сагановіч.*

**АРГА́Н**, арганкі (грэч. órganon зброя, прылада), агнястрэльная шматствольная зброя аднаго ці розных калібраў, якую выраблялі ў 16—18 ст. у многіх гарадах Беларусі (Быхаў, Нясвіж, Полацк, Слуцк і інш.); прататып сучаснай шматствольнай артылерыі. Ствалы А. размяшчалі гарызантальна на спец. станку з коламі або прымацоўвалі да тоўстай дошкі. Былі спалучэнні артылерыйскіх і мушкетных ствалоў. А. з мушкетных ствалоў называлі «сарокі» з-за характэрных гукаў у час стрэлу.

**АРЛЯ́НКА**, папулярная назва сярэбраных манет у Рэчы Паспалітай канца 17 — 1-й пал. 18 ст. Верагодна, А. называлі манеты розных наміналаў з выявай арла на адным з бакоў, у т. л. орты герцагства Прусіі апошняй чвэрці 17 ст., у якіх на рэверсе змешчана выява арла з кругавой легендай, у адрозненне ад ортаў Рэчы Паспалітай і прускіх ортаў з больш складанымі геральдычнымі выявамі. У 1686 А. ацэньвалася ў 100 грошаў, што адпавядала талеру, у 1723 была роўная 17 грошам бітымі шастакамі або 34 грошам шэлегамі. Арлянка-орт у пач. 18 ст. вядома пад назвай «златоўка Пруская з мечыкам».

**АРНА́МЕНТ** (лац. ornamentum упрыгожанне), узор з рытмічна ўпарадкаваных элементаў для аздаблення твораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, прадметаў

хатняга ўжытку, архітэктурных збудаванняў. Паводле тэхнікі выканання, у залежнасці ад матэрыялу, бывае разны, маляваны, тканы, вышываны, плецены. Зарадзіўся ў эпоху позняга палеаліту. У залежнасці ад выкарыстаных форм і матываў адрозніваюць А. геаметрычны (ромбы, кругі, квадраты, салярныя знакі, разеткі і інш.), раслінны, заамарфны, антрапаморфны, часта сумяшчае матывы. У шэрагу вырабаў А. надаваўся сэнсавы, часам магічны характар, меў канкрэтны рэлігійна-міфалагічны змест. Па археал. знаходках вядомы А. на гліняным посудзе з часоў неаліту, *адзенні,* чаравіках, металічных і касцяных жаночых упрыгожаннях і прадметах побыту з 10—12 ст., архітэктурных пабудовах. Гліняныя гаршкі эпохі неаліту ўпрыгожвалі наколамі завостранай палачкі, коса-сеткаватымі кампазіцыямі, шматвугольнікамі, ромбамі з кручкамі, асабліва выразна аздаблялі венчык *(Русакова, Добры Бор).* А. гаршкоў стараж. Русі быў лінейны, лінейнахвалісты, зубчаста-грабеньчаты, кропкава-ямкавы, пазногцевы (*Полацк, Укля* Браслаўскага р-на; гл. *Арнаментацыя керамікі*). Багата арнаментавалася зброя, касцяныя накладкі на калчаны, тронкі нажоў, грабеньчыкі. У асяроддзі сялян і гараджан пераважаў геаметрычны А., а ў дружынна-баярскім — з раслінных і жывёльных форм (касцяныя тронкі з Лукомля, капавушка і накладкі з Ваўкавыска, ігольнік з Навагрудка і інш.). На мяжы 1—2-га тысячагоддзяў н. э. бытавалі арнаментаваныя медныя і бронзавыя пласціністыя *бранзалеты.* Для вырабу 10—11 ст. характэрна пляцёнка з кропкамі ўнутры ромбаў. Асаблівасцю А. быў косы крыж і лініі трохвугольнага пуансона, у 12 ст. ён змяніўся на ромбы, косую рашотку, зігзаг з кропкамі пасярэдзіне. У 10—11 ст. з'явілася традыцыя арнаментальнага ўпрыгожання чаравікаў. Росквіт чаравічнага А. прыпадае на канец 12—13 ст. Часцей узорамі аздаблялі галоўкі чаравікаў і іх наскі, але сустракаюцца чаравікі, арнаментаваныя суцэльна. А. чаравікаў рабілі звычайна з розных элементаў (пляцёнкі, завіткі, кругі, ромбы і інш.), якія складалі адзіную кампазіцыю. На Беларусі найб. распаўсюджанымі былі А. з адлюстраваннем распушчанай крына-кветкі, падобнай да сэрца, пальметы і прошвы. Кожны з гэтых элементаў меў сваё асэнсаванне, нёс ідэйную нагрузку. Трылісцік крына вырастае з пальметы. Паводле этнаграфічных даных, пальмета з крынам узыходзяць да індаеўрапейскай сімволікі, у якой такая кампазіцыя тлумачыцца як «баба» — жанчына - родапачынальніца і абаронца. Раслінныя матывы «сэрца, якое зацвіло», звязаны з адлюстраваннем «Дрэва Адвечнага жыцця», што згадваецца ў Бібліі (у кнізе Быцця), «Слове пра паход Ігаравы», у прытчах Кірылы Тураўскага. S-падобныя завіткі чаравічнага А., паводле Кірылы Тураўскага — парасткі хрыстовай веры, якія пераплятаюцца паміж сабою і ўтвараюць «дрэва» ці «вінаградную лазу». Сляды фарбаў на чаравічных А. не захаваліся. Мяркуецца, што асноўнымі колерамі чаравічных А. былі сіні («атмасфера духоўнага сузірання»), зялёны (вясна, уваскрашэнне, юнацтва, адвечнае жыццё), жоўты («Боскае святло»), чырвоны (боскасць Хрыста, чарадзейная сіла агню). Але першапачатковая сімволіка колераў была іншай: сіні — неба, чырвоны — агонь, зялёны — прырода, жоўты — сонечнае святло. На падставе вывучэння мінскай калекцыі чаравікаў



**Арнамент** на драўляных вырабах культавага прызначэння. 12—13 ст. Полацк.







**Арнаментацыя керамікі.** Гаршкі 3-га тысячагоддзя да н. э. з в. Лучын (1, 2). Ходасавічы Рагачоўскага р-на (3). Гнездзінка Хойніцкага р-на (4) і днішчы гаршкоў з в. Юравічы Калінкавіцкага р-на (5, 6).

высветлена, што арнаментаваныя чаравікі насілі ў асноўным жанчыны. З пераходам ад мяккіх тыпаў абутку да цвёрдых (гл. ў арт. *Абутак*) чаравічны А. спрошчваецца і паступова знікае. З канца 13 ст. пры захаванні геаметрычнага ўзору пашырыўся раслінны А. на бранзалетах (знаходкі ў *Маскавічах*, Навагрудку). З пач. 2-га тысячагоддзя пашырыўся архітэктурны А.: упрыгожанне сцен, падлогі ў культавых і свецкіх пабудовах (Спаса-Ефрасіннеўская царква ў Полацку, Навагрудская Барысаглебская царква, Гродзенская Ніжняя і Каложская цэрквы, замкі ў Лідзе, Міры і інш.).

*Літ.:* 232, 690, 1015, 1212.

*Л. У. Дучыц, С. В. Тарасаў.*

**АРНАМЕНТА́ЦЫЯ КЕРА́МІКІ**, старажытная традыцыя аздаблення посуду, кафлі і інш. гліняных вырабаў *арнаментам.* Паводле даследаванняў археал. знаходак, сістэма арнаменту часта ўтварае кампазіцыю, якая складаецца з розных кампанентаў-матываў. Яны падзяляюцца: па напрамку размяшчэння на гарызантальныя, вертыкальныя, дыяганальныя; па кампазіцыйнай будове на сетка-, зігзага-, ялінка-, крыжападобныя, трох- і прамавугольныя, ромбападобныя, суцэльныя (дывановыя), паясныя, шашка-, стужка- і кратападобныя, віслафігурныя, акантаваныя, радыяльныя і інш. Наносіліся на сырую гліну простым або зубчастым штампам, пальцамі, шнуром, палачкай, грабеньчыкамі, тканінай. У сістэму А. к. ўключаюцца патаўшчэнні венчыкаў (каўнерыкі), налепленыя валікі, шышачкі, ямкі, упрыгожаныя зашчыпамі, гафрыраваннем. Ужываецца ангоб (запаўненне паглыбленняў фарбай), афарбоўка сценак у розныя колеры (часцей белы і чырвоны), наданне сценкам шурпатай або глянцаванай паверхні. Вытокі большасці геам. арнаментаў, уласцівых для бел. нар. творчасці, прасочваюцца ў арнаментацыі посуду неалітычных плямён, асабліва паўд. Беларусі. Гэта разнастайныя паясныя, ускладненыя (камбінаваныя), ромбападобныя з кручкамі арнаментальныя матывы. Найб. росквіту А. к. дасягае ў развітым неаліце (3-е тысячагоддзе да н. э.). На гаршках паясныя, стужкавыя, геам. малюнкі запаўняліся радамі ямак, бакавых наколаў, лапчастых і прамавугольных, зубчастых адбіткаў. Для бронзавага веку характэрны больш простыя арнаменты, пераважна з адбіткаў шнура «вусеняў», пацеркавых, ялінкападобных, віслафігурных матываў. У жалезным веку ўпрыгожанне посуду сціплае (пераважна ў верхняй частцы пасудзіны), толькі прасліцы часам захоўваюць арнаментацыю папярэдніх эпох. На кераміцы перыяду Кіеўскай Русі пераважае лінейны і хвалісты малюнак, часцей сустракаюцца стылізаваныя фігуркі чалавека, жывёлы (качкі, пеўнікі, коні, козы і інш.). Кафля звычайна ўпрыгожвалася рэльефным арнаментам.

*Літ.:* 461.

*У. Ф. Ісаенка.*

**АРХА́НТРАПЫ** (грэч. archáios старажытны + ánthrōpos чалавек), старажытныя выкапнёвыя людзі (пітэкантрап, сінантрап, атлантрап, алдавайскі чалавек, гейдэльбергскі чалавек і інш.), адна са стадый эвалюцыі чалавека. Жылі ў раннім *плейстацэне* (650—360 тысяч г. таму назад).

Ад сучасных людзей адрозніваліся больш прымітыўнай будовай чэрапа (нізкае скляпенне са сплюшчваннем патылічнага аддзела, выступанне сківіц), адсутнасцю падбародачнага выступу ніжняй сківіцы, моцна развітымі надброўямі. Некаторыя расавыя адрозненні ў лакалізаваных варыянтаў А. (напр., разцы ў выглядзе шуфля і інш. асаблівасці мангалоіднай расы ў сінантрапаў) сведчаць аб пачатку складвання рас на гэтай стадыі развіцця. Ранція А. выраблялі груваcткія каменныя прылады шэльскага тыпу, познія А.— больш дасканалыя ашэльскага тыпу. А. ўяўляюць сабой пачатковы этап працэсу антрапагенезу, іх эвалюцыя прывяла да ўзнікнення палеаантрапаў. У СССР адкрыта больш за 100 стаянак А. (Сярэдняя Азія, Каўказ, Прыазоўе, Закарпацце, Алтай, Малдова і інш.).

*Літ.:* 149, 933, 1167. *Л. І. Цягака.*



**Археалагічна-этнаграфічны музей** Гомельскага дзяржаўнага універсітэта. Бронзавы крыж з гарадзішча Чачэрск.

**АРХЕАЗААЛО́ГІЯ** (грэч. archáios старажытны + zōon жывёла + lógos навука), навука, якая вывучае рэшткі касцей жывёл з раскопак археал. помнікаў.

Як самастойны кірунак А. пачала вылучацца з 1961, калі Міжнародны сімпозіум па праблемах даместыкацыі, які адбыўся ў г. Кілі (Германія), паказаў багацце праблематыкі і вял. разнастайнасць рэштку жывёл з археал. раскопак. У 1971 у Будапешце створана секцыя па праблемах А., пераўтвораная ў 1976 у Міжнар. савет па А. З гэтага часу А. як навук. дысцыпліна мае незалежны статус ад археал. навукі. Спецыялістамі ў галіне А. з'яўляюцца заолагі і археолагі. У аснове даследаванняў А. ляжыць метад комплекснага астэалагічнага вывучэння калекцыі касцявых рэшткаў, які ўключае ідэнтыфікацыю касцей і відаў, узроставых і палавых прыкмет, серыі вымярэнняў, устанаўленне асаблівасцей экстэр'еру.

Упершыню фауна з раскопак стараж. гарадзішчаў Беларусі апісана ў 1930 В. І. Громавым. У 1950-я г. апублікавана некалькі артыкулаў, прысвечаных апісанню фауны асобных помнікаў сярэднявечча (В. І. Цалкін) і жал. веку (І. Г. Проніна, В. Я. Гарут). З канца 1950-х г. на Беларусі сістэматычную апрацоўку касцявых рэшткаў з раскопак многіх археал. помнікаў праводзіла В. В. Шчаглова.

*Літ.:* 259, 939, 1266, 1373.

*Н. П. Александровіч.*

**АРХЕАЛАГІ́ЧНАЕ ДАТАВА́ННЕ**, устанаўленне ўзросту археал. помніка або комплексу. Выкарыстоўваюць 2 сістэмы А.д.: адносную і абсалютную храналогію. Пры адноснай храналогіі вызначаецца, якая з 2 рэчаў, культур, або які з 2 культурных гарызонтаў, пластоў больш старажытныя.

Стратыграфічныя назіранні за шэрагам помнікаў дазваляюць выявіць розныя выпадкі перакрывання культурных гарызонтаў, стварыць храналагічную шкалу для старажытнасцей — высветліць парадак іх змянення з цягам часу (у выпадку непарушнасці напластаванняў гарызонт, пласт, рэч, якія знаходзяцца вышэй, перакрываюць іншыя, лічацца больш познімі, чым «падсцілаючыя» іх). Пры параўнальна-тыпалагічным метадзе ўдакладняецца эвалюцыя форм, спосабаў апрацоўкі, стыляў, домабудаўніцтва, абрадаў і г. д. Складзеныя эвалюцыйныя рады выкарыстоўваюцца як сродак датавання не толькі эпохі, культуры, але і перыяду, этапу (стадыі) або варыянта развіцця культуры. Часам вызначаецца, перад якой ці пасля якой пэўнай падзеі ўтварыўся археал. помнік (максімуму зледзянення, перыяду пацяплення, утварэння выкапнёвай глебы, вывяржэння вулкана, паводкі, пажару, землетрасення і інш.).

Абсалютная храналогія — устанаўленне ўзросту помніка ў звычайных вымярэннях нашага летазлічэння (тысячагоддзі, стагоддзі, гады і г. д.). Яна магчыма пры наяўнасці рэчаў з надпісамі, датамі, прозвішчамі асоб, упамінаннем вядомых гіст. падзей і інш.

Напр., манетны скарб датуецца па самай позняй манеце, пахаванне захоўвае комплекс адначасных рэчаў, надмагільны помнік — дату і інш. Датаванне помнікаў дапісьмовых эпох часам праводзіцца з дапамогай метадаў прыродазнаўчых навук і назапашанай імі інфармацыйнай базы. Палеалітычны помнік можа датавацца па геалагічным пласце або па адкладаннях стужкавых глін; дэндрахраналагічны метад — па гадавых пластах драўніны, знойдзенай на помніку, па ступені назапашвання

фтору або знікнення бялку-калагену ў выкапнёвых касцях стараж. жывёл. Спорава-пылковы аналіз дапамагае вызначыць перыяд развіцця расліннасці ў час утварэння культурнага пласта, радыевуглярodны — узрост па ступені распаду $C^{14}$ у арганічных рэштках, палеа-, геамагнітны — па магнітных характарыстыках аб'ектаў. Тэрмалюмінесцэнтны аналіз дазваляе падлічыць дату абпальвання керамікі і інш. Дакладнасць А.д. значна ўзрастае пры комплексным метадзе — адначасовым выкарыстанні некалькіх спосабаў датавання археал. матэрыялу.

*Літ.*: 3, 748. *У. Ф. Ісаенка.*

**АРХЕАЛАГІ́ЧНА-ЭТНАГРАФІ́ЧНЫ МУЗЕ́Й** Гомельскага дзяржаўнага універсітэта імя Ф. Скарыны. Адкрыты ў 1980 як археалагічны, пазней утвораны этнаграфічны аддзел. Археал. рэчы экспануюцца на 6 стэндах: палеаліт і мезаліт; неаліт і бронзавы век; ранні жал. век; старажытнаславянская вёска; усходнеславянскія гарады; стараж. манеты. У экспазіцыі косці мамантa (Віцебская, Гомельская і Цюменская вобл.), палеалітычныя скрабкі, мезалітычныя мікраліты, прылады працы і фрагменты посуду эпохі неаліту і бронзы (Гомельскі і Веткаўскі р-ны), фрагменты антычнага посуду, посуду мілаградскай і зарубінецкай культур (Чачэрск), гліняныя грузікі, рэшткі металургічнай вытворчасці (Рэчыцкі р-н), скроневыя кольцы (7-прамянёвыя бранзалета- і пярсцёнкападобныя), бронзавыя фібулы, пацеркі (шкляныя залачоныя бочачкападобныя і цыліндрычныя, сердалікавыя біпірамідальныя, бронзавыя прызматычныя), дробны бісер, падвескі, лунніцы, крыжыкі, гліняны посуд, прылады працы (Жлобінскі, Кармянскі, Рагачоўскі, Чачэрскі, Міёрскі р-ны), манеты 18—20 ст., скарб польскіх манет 16—17 ст. з в. Людзяневічы (Жыткавіцкі р-н). Экспануюцца муляжы палеалітычных прылад працы, малюнкі першабытных людзей, статуэтак эпох палеаліту і энеаліту, фотаздымкі, слайды. У музеі праводзяцца экскурсіі, арганізуюцца выстаўкі літаратуры па археалогіі і этнаграфіі. *У. У. Багамольнікаў.*

**АРХЕАЛАГІ́ЧНАЯ ГРУ́ПА,** навукова-даследчае падраздзяленне ў складзе *археалагічнай экспедыцыі* або атрада з 2—3 супрацоўнікаў, падначаленых кіраўніку групы.

**АРХЕАЛАГІ́ЧНАЯ КАМІ́СІЯ** пры Народным камісарыяце асветы Літоўска-Беларускай ССР (ЛітБел). Заснавана 25.3.1919 паводле пастановы ўрада ЛітБела для каардынацыі і кіраўніцтва ўсімі даследаваннямі гіст. і археал. помнікаў на тэр. рэспублікі: пошук помнікаў, іх навуковае вывучэнне, сістэматызацыя і ацэнка, публікацыя атрыманых звестак, ахова гіст. і культурнай спадчыны.

Камісія атрымала права ствараць даследчыя экспедыцыі, выдаваць навук. працы, распаўсюджваць археал. веды сярод насельніцтва, кіраваць працай архіваў, бібліятэк, музеяў. Разгарнуць работу камісіі перашкодзіла акупацыя тэр. ЛітБела войскамі Польшчы летам 1919.

*Літ.*: 194.

**АРХЕАЛАГІ́ЧНАЯ КАМІ́СІЯ** ў Пецярбургу, цэнтральная археал. ўстанова Расіі. Існавала ў 1859—1919. З 1889 дазваляла і кантралявала раскопкі на дзярж., гар. і сялянскіх землях (на памешчыцкія землі яе правы не пашыраліся). Выдавала штогоднік «Отчеты» за 1859—1915 гг. (1862—1918), «Известия» (вып. 1—66, 1901—18), а таксама «Матэрыялы па археалогіі Расіі» (т. 1—37, 1866—1918). А.к. правяла вял. работу па зборы помнікаў старажытнасці, іх ахове і рэстаўрацыі, у т.л. на тэр. Беларусі. У розны час А.к. ўзначальвалі С.Р. Строганаў, А. А. Васільчыкаў, А. А. Бабрынскі. Пасля ліквідацыі яе функцыі перададзены Дзярж. акадэміі гісторыі матэрыяльнай культуры (з 1959 Інстытут археалогіі АН СССР).

**«АРХЕАЛАГІ́ЧНАЯ КА́РТА БЕЛАРУ́СІ»,** выданне Бел. добраахвотнага т-ва аховы помнікаў гісторыі і культуры, у якім змешчаны пералік выяўленых археал. помнікаў пэўнай эпохі, адпаведна адм.-тэрытарыяльнаму падзелу Беларусі. Выдадзены ў Мінску ў 3 выпусках (1968—76) на рус. мове. У вып. 1-м — Помнікі каменнага веку (1968, складальнік У. Ф. Ісаенка) — пералічаны 601 помнік палеаліту, мезаліту і неаліту, выяўлены на тэр. Беларусі і суседніх раёнаў РСФСР і УССР. У вып. 2-м — Помнікі жалезнага веку і эпохі феадалізму (1971, складальнік Г. В. Штыхаў) — названы гарадзішчы, селішчы, курганы, камяні з надпісамі, манетныя і манетна-рэчавыя скарбы. У вып. 3-м — Помнікі бронзавага веку (1976, складальнік Ісаенка) — уключана 2400 помнікаў гэтага перыяду. Дадзена апісанне асобных археал. культур, сацыяльна-эканам. развіцця плямён. У кожным выпуску змешчана характарыстыка адпаведнай эпохі на тэр. рэспублікі, прыводзяцца спісы і карты помнікаў, даецца бібліяграфія. Ілюстраваны фотаздымкамі і замалёўкамі археал. знаходак, планамі некаторых помнікаў.

**«АРХЕАЛАГІ́ЧНАЯ КА́РТА ГРО́ДЗЕНСКАЙ ГУБЕ́РНІ»,** навукова-краязнаўчая праца археолага Ф. В. Пакроўскага, падрыхтаваная да *Археалагічнага з'езда дзевятага.* Надрукавана ў «Працах дзевятага археалагічнага з'езда ў Вільні, 1893» (т. 1, 1895). У аснову кнігі пакладзены звесткі, сабраныя аўтарам самастойна або праз мясцовых карэспандэнтаў (вясковых настаўнікаў, стараст, свяшчэннікаў), выкарыстаны публікацыі даследчыкаў Т. Тышкевіча, З. Глогера, Э. Вольтэра, М. Авенарыуса і інш.

Археал. матэрыял размешчаны паводле гідраграфічнага члянення губерні: басейн р. Нёман (Гродзенскі, б. ч. Слонімскага і Ваўкавыскага пав.), басейн р. Бобр (ч. Сакольскага і Беластоцкага пав.), басейн р. Нараў (Ваўкавыскі, Пружанскі, Бельскі, Беластоцкі, ч. Сакольскага пав.), басейн р. Зах. Буг (Брэсцкі, часткова Кобрынскі, Бельскі і Пружанскі пав.), басейн р. Прыпяць (ч. Слонімскага, Пружанскага і Кобрынскага пав.). Названы стаянкі і асобныя знаходкі каменнага веку, гарадзішчы жал. веку, курганныя групы, замкавыя горы, надмагільныя крыжы, камяні і пліты з надпісамі і без іх эпохі сярэдневечча. Змешчана шмат легенд і паданняў, звязаных з рознымі мясцінамі і помнікамі. *М. А. Ткачоў.*

**«АРХЕАЛАГІ́ЧНАЯ КА́РТА МАГІЛЁЎСКАЙ ГУБЕ́РНІ»,** адна з асноўных прац Е. Р. *Раманава* ў галіне археалогіі. Падрыхтоўка яе пачалася каля 1884. Паводле пастановы Віленскага аддзялення папярэдняга камітэта *Археалагічнага з'езда дзевятага* карту планавалася надрукаваць на працягу 2 гадоў да пачатку з'езда (1893). Выданне сарвалася з-за недастатковасці звестак (былі толькі пра курганы і гарадзішчы) і пратэрміноўкі адказаў на разасланыя па паветах апытальныя лісты (апошні дасланы ў 1897). У дапрацаваны варыянт карты Раманаў уключыў падрабязныя звесткі пра месцазнаходжанні шматлікіх прылад працы каменнага веку, каменныя крыжы з надпісамі і без іх, камяні-следавікі з выявамі крыжоў, месяца, падковы і пісталета (мяст. Хальч), язычніцкі ідал у выглядзе 4-кантовага каменнага слупа з высечанай наверсе галавой (в. Пярэспа Сенненскага пав.), крыж з літарамі IC $\frac{XC}{XЪ}$ і надпісам «БАРИСЪ БАИСЪ» (мяст. Раманава), «замкавішчы», палі пахаванняў, ахапіўшы практычна ўсе катэгорыі археал. помнікаў губерні.

Вучоны пералічыў віды курганных пахаванняў (у мацерыку, на мацерыку, у насыпе, у труне, без труны, трупаспаленне за межамі кургана, у кургане, са зброяй, курганы-кенатафы, парныя курганы, злучаныя невял. валамі). Асаблівасцю могільнікаў Магілёўшчыны Раманаў лічыў наяўнасць у адных і тых жа могільніках розных відаў пахаванняў. Зафіксавана 9506 курганных насыпаў (у 1885—88 Раманаў раскапаў 39 курганоў), атрыманы звесткі пра 245 гарадзішчаў. Зазначыў, што насельніцтва на Пн губерні называла курганы «капцамі», на Пд — «валатоўкамі», на У — «курганамі». Да карты былі напісаны фізіка-геаграфічны і гіст. нарысы. Выдадзены толькі «Археалагічны нарыс Гомельскага павета (Магілёўскай губерні)» (аднаго з 11 на Магілёўшчыне) і фізіка-геаграфічны нарыс губерні (Вільня, 1910). Усе рукапісныя матэрыялы, апытальныя лісты захоўваюцца ў Цэнтр. гіст. архіве Украіны ў Львове.

*Літ.*: 515, 965.

*С. Я. Расадзін, М. А. Ткачоў.*

**АРХЕАЛАГІЧНАЯ КУЛЬТУРА,** гістарычная агульнасць *археалагічных помнікаў*, што існавалі на акрэсленай тэрыторыі прыкладна ў адзін час і аднастайныя па сваёй матэрыяльнай культуры, але істотна адрозніваюцца ад адначасовых помнікаў суседніх абласцей. Аднастайнасць помнікаў А.к. павінна існаваць у такіх памерах і падрабязнасцях, якія немагчыма растлумачыць ні аднымі і тымі ж умовамі існавання і экалогіяй, ні наяўнасцю падобнага гаспадарча-культурнага тыпу, аднолькавым узроўнем грамадска-эканам. развіцця.

Помнікі і комплексы, якія аб'ядноўваюцца ў адну А.к., могуць адрознівацца спецыфічнымі формамі, арнаментацыяй і асобнымі ўпрыгожаннямі посуду, калі ён мае вузкі арэал выкарыстання, асаблівасцямі пахавальнага рытуалу, культавых абрадаў, домабудаўніцтва, тыпаў паселішчаў і жытлаў, а таксама вытворчасцю, тыпамі прылад працы, гасп. дзейнасцю, этнакультурнымі сувязямі і інш. Такія адрозненні развіваюцца ў выніку пэўнага тэрытарыяльнага адасаблення плямён ці народаў на пэўным адрэзку часу захавання і развіцця традыцый папярэдніх пакаленняў, прыстасавання да мясцовых умоў існавання. Гэта сведчыць пра іх этнічнае самавызначэнне. А.к.— аб'ектыўна існуючая рэальнасць, якая адлюстроўвае ў рэштках матэрыяльнай культуры *генезіс*, этапы развіцця і гіст. лёс *этнасу*, якому яна належала. Пад уздзеяннем прыродных працэсаў і чалавечай дзейнасці А.к. можа збядняцца або ўзбагачацца. Разам з тым А.к.— навук. паняцце, з дапамогай якога даследуецца гіст. працэс. *Археалагічныя крыніцы*, выяўленыя і вывуча-




Аўтар У.Ф. Ісаенка

ныя ў працэсе археал. даследаванняў, ператвараюцца ў гіст. крыніцы, на аснове якіх можна рэканструяваць гіст. працэс у старажытнасці, вызначыць этнасы, што не захаваліся ў пісьмовых крыніцах. Узнікае праблема суадносін паміж А.к. і этнасамі.

Большасць даследчыкаў лічыць, што ў *каменным веку* А.к. адпавядала пэўнаму этнасу і, наадварот, кожны этнас развіваў пэўную, толькі яму ўласцівую культуру. У *палеаліце* і *мезаліце* А.к. вылучаюць пераважна па наборы вытворчага інвентару (крамянёвыя прылады працы), у *неаліце* — па арнаментацыі і тыпах посуду, у жал. веку — па форме гаршкоў і тыпах жытлаў, ва ўсходнеслав. плямён — па тыпах скроневых кольцаў і пахавальным рытуале і г. д. Часам А.к. вылучаюць па другарадных прыкметах і тады аднаму этнасу могуць адпавядаць розныя культуры (*тшцінецкая культура, сосніцкая культура, лебядоўская культура* ў бронзавым веку), або адна і тая ж А.к. развівалася некалькімі этнасамі, была поліэтнічнай (*чарняхоўская культура, доўгія курганы, банцараўская культура* ў раннім жал. веку).

Гандлёвыя сувязі, якія выяўляюцца ў А.к., разглядаюцца як сведчанне міжплеменных сувязей і, магчыма, моўных запазычанняў. Калі падабенства паміж культурамі адзначаецца па шматлікіх прыкметах, можна гаварыць пра генетычныя сувязі паміж імі, пра роднасць этнасаў (пры адначасовасці культур) або пра прыналежнасць да аднаго этнасу (пры адносным супадзенні арэалаў і паслядоўнасці часу існавання культуры). Пачынаючы з бронзавага веку, трапляюцца выпадкі перайманця культуры (і мовы) суседніх, больш развітых плямён. Працэс складвання А.к. ішоў паралельна з распадзеннем яе на мясцовыя (лакальныя), напэўна, племянныя варыянты. У сваім развіцці А.к. звычайна праходзіць некалькі этапаў (стадый), якія крыху адрозніваюцца ў кожным варыянце культуры. Варыянт з цягам часу можа развіцца ў генетычна блізкую А.к. ці можа знікнуць, што сведчыць пра асіміляцыю этнасу, або перайманне ім чужой культуры, пераходу да іншага гаспадарча-культурнага тыпу. Пра гэтыя складаныя ўзаемаадносіны этнасаў іншы раз можна меркаваць па наяўнасці ў складзе А.к. дыялектычнага адзінства тыпаў — архаізмаў, імпарту, традыцыйных і запазычаных форм, навацый, што даследуецца тыпова-параўнальным і статыстычным метадамі.

Гісторыя развіцця і ўзаемадзеяння А.к. з той ці іншай дакладнасцю адлюстроўвае гісторыю адпаведных ім этнасаў (родаў, плямён, народнасцей, нацый). Узровень развіцця носьбітаў культуры вызначаецца па іх *гаспадарча-культурнай класіфікацыі.* На тэр. Беларусі ў самастойныя А.р. вылучаны: *грэнская культура, свідэрская культура, сожская культура, яніславіцкая культура* (мезаліт); *верхнедняпроўская культура, днепра-данецкая культура, нёманская культура, нарвенская культура, тыповай грабеньчата-ямкавай керамікі культура* (неаліт); *паўночнабеларуская культура, прыбалтыйская культура, сосніцкая культура, сярэднедняпроўская культура, тшцінецкая культура, шнуравой керамікі культуры* (бронзавы век); *банцараўская культура, днепра-дзвінская культура, зарубінецкая культура, мілаградская культура, паморская культура, штрыхаванай керамікі культура* (жал. век) і інш.

*Літ.*: 3, 119, 384, 796, 847.

*У. Ф. Ісаенка.*



Да арт. **Археалагічная практыка.** Студэнты Мінскага педінстытута на раскопках паселішча каля в. Гарадзішча Мінскага р-на. 1975.

лад. Для ранняга (ніжняга) *палеаліту* (старажытнакаменны век) характэрна грубая апрацоўка прылад працы, адсутнасць падзелу працы, існаванне першабытнага чалавечага статку. У познім (верхнім) палеаліце ўсталяваўся мацярынска-родавы лад (матрыярхат), росквіт якога прыпаў на *неаліт* (новакаменны век). У гэты перыяд адбыўся архаічны падзел працы і пачаўся пераход да вытворчай гаспадаркі. Бронзавы і ранні жал. вякі ў асноўным супадаюць з перыядам патрыярхату, які завяршыўся распадам родавага ладу і ўтварэннем раннекласавага грамадства.

**АРХЕАЛАГІ́ЧНАЯ ПЕРЫЯДЫЗА́ЦЫЯ,** падзел гісторыі развіцця чалавецтва на буйныя па працягласці эпохі (вякі) і перыяды, якія грунтуецца на істотных зменах у сродках вытворчасці, у першую чаргу за кошт больш прадукцыйных прылад працы. Паводле матэрыялу (сыравіне), з якога выраблялася большасць прылад працы, вылучаюць *каменны век, бронзавы век, жалезны век.* Унутры іх па тэхналагічным майстэрстве апрацоўкі прылад вызначаюцца меншыя эпохі і перыяды. Паступовае павышэнне эфектыўнасці вытворчасці, пераход ад прысвойваючай гаспадаркі да вытворчай эканомікі, ад прымітыўнага земляробства і жывёлагадоўлі да больш удасканаленых сістэм сельскай гаспадаркі ў эпоху феадалізму выразна адлюстравалася ў матэрыяльных рэштках, пакладзеных у аснову больш дробнай А.п. Паміж А.п. і гіст. перыядызацыяй могуць устанаўлівацца пэўныя адпаведнасці: на каменны, бронзавы і жал. вякі прыпадае першабытнаабшчынны лад...

У сярэдзіне 1-га тысячагоддзя н.э. ва Усх. Еўропе ўсталяваліся феад. адносіны. На базе далейшага росту вытворчасці, развіцця рамяства і гандлю адбыўся другі буйны грамадскі падзел працы, раслі гарады. Суседская (тэрытарыяльная) абшчына ператварылася ў сельскую, зараджалася дзярж. ўлада.

*Літ.:* 880, 1381.

*У. Ф. Ісаенка.*

**АРХЕАЛАГІ́ЧНАЯ ПРА́КТЫКА,** вучэбна-метадычны курс, прадугледжаны праграмай для студэнтаў гіст. факультэта ВНУ. На Беларусі А.п. праводзяць БДУ імя У. І. Леніна, Гомельскі ун-т імя Ф. Скарыны, Гродзенскі ун-т імя Я. Купалы, Мінскі педінстытут імя М. Горкага і Магілёўскі педінстытут імя А. Куляшова. У розныя часы на Беларусі А.п. праходзілі студэнты з Ленінграда, Пярмі і інш. Паводле вучэбнай праграмы на практыку адводзіцца 18—21 дзень.

За гэты час студэнты павінны авалодаць навыкамі пошуку і раскопак *археалагічных помнікаў,* апрацоўкі знаходак і вядзення палявой дакументацыі. А.п. складаецца з падрыхтоўча-

га. асн. і заключнага этапаў. Спачатку студэнты-практыканты атрымліваюць тэарэтычную падрыхтоўку на лекцыях, знаёмяцца з відамі археал. помнікаў, методыкай іх выяўлення і даследавання, умовамі палявога побыту *археалагічнай экспедыцыі,* тэхнікай бяспекі. Удзельнікі экспедыцыі забяспечваюцца неабходным інвентаром, абсталяваннем, транспартам, грашовымі сродкамі. На другім этапе студэнты-практыканты пад кіраўніцтвам выкладчыка, які мае *адкрыты ліст,* займаюцца выяўленнем і апісаннем археал. помнікаў (паселішчаў, гарадзішчаў, могільнікаў і інш.), удзельнічаюць у раскопках, знаёмяцца з тэхнікай вядзення палявой дакументацыі, пярвічнай апрацоўкі і кансервацыі археал. знаходак. На трэцім этапе падводзяцца вынікі практыкі і залік. На пачатку новага навучальнага года праводзіцца канферэнцыя па выніках практыкі: заслухоўваюцца паведамленні кіраўніка практыкі і студэнтаў, дэманструюцца матэрыялы палявога сезона (слайды, фотаздымкі, знаходкі). Інфармацыя аб выніках археал. практыкі змяшчаецца ў зборніку «Археалагічныя адкрыцці», шматтыражных газетах навучальных устаноў, у справаздачы аб палявых даследаваннях.

*Літ.:* 4, 383, 940. *Л. У. Калядзінскі.*

**АРХЕАЛАГІЧНАЯ РАЗВЕДКА,** метад і від навукова-даследчай дзейнасці спецыялістаў-археолагаў і прыраўнаваных да іх навук. работнікаў па вывучэнні археал. помнікаў на аснове выяўленых у зямлі знаходак. Праводзіцца паводле адкрытых лістоў з мэтай паўторнага абследавання ці выяўлення новых помнікаў, звычайна пешшу (з улікам патрабаванняў тэхнікі бяспекі), колькасцю не менш як 2 чал., сумесна з мясц. жыхарамі. Пры А.р. асаблівая ўвага звяртаецца на абследаванне берагоў старыц і тарфяных масіваў, якія ў далёкім мінулым былі вадаёмамі, іх берагі маглі быць заселены людзьмі. Стаянкі эпохі палеаліту і мезаліту ў Падняпроўі звычайна знаходзяцца на 2-й надпоймавай тэрасе выш. 10—30 м і болей над летнім межанным узроўнем вады ў вадаёмах, больш познія помнікі — на 1-й надпоймавай тэрасе выш. да 10 м.

Аднак у розных зонах лакалізацыі помнікаў могуць быць выключэнні. Так, у Тураўскім міжрэччы Прыпяці — Сцвігі ёсць помнікі ад ранніх перыядаў каменнага веку да позняга сярэднявечча, хоць вышыня тэрас там не перавышае 4—5 м над поймамі рэк. Могільнікі могуць знаходзіцца ў розных месцах. А.р. дае асабліва плённыя вынікі пры абследаванні тых земель, што разворваюцца, там спрактыкаваныя даследчыкі лёгка прасочваюць могільнікі і жытлы. Тэрыторыі распаўсюджвання пэўнага тыпу рэчаў дапамагаюць вызначыць прыкладныя межы археал. помнікаў. Пры дэталёвых абследаваннях кар'ераў для здабычы крэйды, пяску, гліны, жарствы, распрацовак торфу, на месцах пракладвання дарог, будаўніцтва жытлаў, прадпрыемстваў і інш. земляных работах могуць быць выяўлены рэшткі паселішчаў, майстэрняў па апрацоўцы крэменю, могільнікі, скарбы, рэшткі чацвярцічнай фауны і інш.

Усе адкрытыя археал. помнікі фатаграфуюцца, наносяцца іх планы маштабам 1 : 500 см і 1 : 1000 см, на якіх пазначаюцца месцы пахаванняў, жытлаў, скопішчы знойдзеных рэчаў і інш. Афармляюцца пашпарты, у якіх указваюцца мясц. назвы ўрочышчаў, рэк, азёр, прыводзяцца прывязкі да найбліжэйшых населеных пунктаў, цэнтраў сельсаветаў, пазначаюцца раён, вобласць, рэспубліка, аўтар А. р., месца захоўвання, а пасля рэгістрацыі і калекцыйныя нумары знаходак; у дзённіках падрабязна апісваюцца і замалёўваюцца знойдзеныя рэчы. Па выніках А.р. аўтар прадстаўляе кіраўніцтву арганізацыі, што выдала адкрыты ліст, навук. справаздачу, якая захоўваецца ў навук. архіве. Аўтар А.р. прымае захады аб рэгістрацыі знойдзеных помнікаў, іх ахове і ўвядзенні ў навук. зварот.

*Літ.:* 3, 4, 775. *Л. Д. Побаль.*



**Археалагічная экспедыцыя** 1926 у Банцараўшчыне з удзелам І. Сербава, М. Доўнар-Запольскага, М. Шчакаціхіна, С. Дубінскага, З. Даўгялы, М. Улашчыка, А. Кавалені, С. Шутава, А. Мельнікава.

**АРХЕАЛАГІЧНАЯ ЭКСПЕДЫЦЫЯ,** форма правядзення навук.-даследчых работ па вывучэнні і выяўленні археал. помнікаў у палявых стацыянарных (гл. *Раскопкі археалагічныя*) і маршрутных (гл. *Археалагічная разведка*) умовах. Складаецца з *археалагічных атрадаў* і археал. груп, якія фарміруюцца ў адпаведнасці з тэматычнымі планамі ўстановы, што арганізуе А.э.

У склад экспедыцыі ўваходзяць: кіраўнік і яго намеснік, навук. супрацоўнікі (штатныя і пазаштатныя), лабаранты, чарцёжнікі, фатографы і інш. (усяго каля 20 чал.). На Беларусі для правядзення палявых работ кіраўнік павінен атрымаць у Ін-це гісторыі АН Беларусі *адкрыты ліст.* Для раскопак набіраюцца рабочыя (найчасцей старшакласнікі з бліжэйшых да помніка мясц. школ або студэнты ВНУ, якія праходзяць *археалагічную практыку*). Экспедыцыя, атрады і групы забяспечваюцца адпаведнымі прыладамі, рыштункам і абсталяваннем. Абавязкі і размеркаванне работ у экспедыцыі рэгламентуе інструкцыя аб правядзенні палявых работ. Навук. вынікам А.э. з'яўляецца справаздача пра даследаванні, якую абмяркоўвае і зацвярджае ўстанова, што выдала адкрыты ліст, і якая захоўваецца ў архіве гэтай установы. Кароткую інфармацыю пра вынікі палявога сезона звычайна змяшчаюць у зб. «Археалагічныя адкрыцці» Ін-та археалогіі АН Расіі або ў перыядычным друку.

На Беларусі А.э. арганізуюць Ін-т гісторыі АН Беларусі, Ін-т археалогіі АН Расіі, ін-т «Белспецпраектрэстаўрацыя», Бел. дзярж. ун-т імя У. І. Леніна, Гомельскі дзярж. ун-т імя Ф. Скарыны, Гродзенскі дзярж. ун-т імя Я. Купалы, Магілёўскі педагагічны ін-т імя А. Куляшова, Гомельскі абл. краязнаўчы музей.

*Літ.:* 4, 383. *Л. У. Калядзінскі.*

**АРХЕАЛАГІЧНЫ АТРАД,** навукова-даследчае падраздзяленне ў складзе *археалагічнай экспедыцыі* з 4 і болей супрацоўнікаў пад кіраўніцтвам начальніка атрада.

**АРХЕАЛАГІЧНЫ З'ЕЗД ДЗЕВЯТЫ.** Адбыўся 31.7—14.8.1893 у Вільні. Пасяджэнні праходзілі ў памяшканні Віленскай публічнай б-кі пад старшынствам графіні П. С. Уваравай, пры ўдзеле археолагаў І. Анічэнкі, М. І. Сакалова (Масква), С. Ф. Платонава і М. І. Весялоўскага (Пецярбург) і інш. Удзельнічала 395 дэлегатаў (археолагі, этнографы, краязнаўцы, гісторыкі, архітэктары і інш.). Заслухана 86 дакладаў і паведамленняў, 43 з іх прысвечаны бел. тэматыцы: пра формы пахавальных абра-

даў у магільных курганах Магілёўскай (У. З. Завітневіч) і Мінскай (М. П. Авенарыус) губ., пахавальны тып магіл радзімічаў, помнікі бронзавага веку ў бас. Дняпра (У. Б. Антановіч), пра майстроў каменнага веку бас. Дняпра (К. П. Мельнік), заснаванне Гродна (Я. Ф. Арлоўскі), гісторыю Брэста (Л. С. Паеўскі), каменныя бабы (С. С. Слуцкі), курганы Мінскай губ. (Г. Х. Татур), курганныя раскопкі ў Магілёўскай губ. (М. В. Фурсаў), стараж. храмы Віцебска і Полацка (А. М. Паўлінаў), курганы на мяжы Літвы і Беларусі (Ф. В. Пакроўскі) і інш. Да з'езда былі падрыхтаваны *«Археалагічная карта Гродзенскай губерні»* і «Археалагічная карта Віленскай губерні». У час работы з'езда працавала выстаўка археал. знаходак. Былі выдадзены «Працы дзевятага археалагічнага з'езда ў Вільні, 1893» (т. 1—2, 1895—97; пад рэд. Уваравай і Слуцкага), «Каталог прадметаў, дастаўленых на археалагічную выстаўку пры 9-м археалагічным з'ездзе ў Вільні ў 1893 г.» (1893).

Падрыхтоўчая работа да з'езда была даручана ў 1891 Віленскаму аддзяленню Маскоўскага папярэдняга к-та (кіраўнік ген.-лейт. А. П. Тыртоў, яго нам. Ю. Ф. Крачкоўскі, члены к-та Ф. М. Дабранскі, І. Я. Спрогіс, К. І. Снітка, В. М. Плашчынскі, Пакроўскі, А. П. Адамсон, В. І. Насовіч, А. І. Шверубовіч, В. В. Гразноў, Я. Ф. Карскі, М. І. Самойла, П. Д. Бранцаў, М. І. Коханаў, І. П. Трутнеў). Работа к-та вялася ў адпаведнасці з Правіламі з'езда, зацверджанымі Маскоўскім археал. т-вам і Міністэрствам нар. асветы. Падрыхтоўкай да з'езда былі ахоплены ўсе бел. землі, якія ўваходзілі ў склад Віленскай, Ковенскай (Новааляксандраўскі пав.), Мінскай, Гродзенскай, Магілёўскай, Віцебскай, Смаленскай губ. У кожнай губерні было сваё аддзяленне к-та, якое вяло збор матэрыялаў і адпраўляла іх у Віленскае аддзяленне. Па валасцях рассылаліся апытальныя лісты з мэтай збору звестак пра помнікі археалогіі, архітэктуры, прадметы нумізматыкі, палеаграфіі і інш. Вялася вял. работа па арганізацыі археал. экспедыцый, зборы музейных калекцый, наладжванні выставак. Прыцягваліся спецыялісты па археалогіі, гісторыі, этнаграфіі, стараж. літ-ры, гіст. геаграфіі, мастацтву, нумізматыцы, геральдыцы, бел. мове, палеаграфіі, археаграфіі і інш. У асноўным была завершана работа па складанні археал. карт Віленскай і Гродзенскай губ., стварaліся карты Мінскай, Віцебскай, Магілёўскай (гл. *«Археалагічная карта Магілёўскай губерні»*), Ковенскай губ., меркавалася стварыць карту Паўн.-Зах. краю. Адбылося 15 пасяджэнняў арганізацыйнага к-та, на якіх былі зроблены даклады пра археал. экспедыцыю ў наваколлі Радашковіч (Пакроўскі), даследаванні старажытнасцей Віцебшчыны (А. М. Семянтоўскі), ролю мовы ў даследаванні стараж. гісторыі (Я. А. Ляцкі), экспедыцыйныя знаходкі з Мінскай губ. (Завітневіч), асабістыя калекцыі (В. П. Федаровіч, К. В. Балсуноўскі, Татур, А. К. Снітка), пра археал. даследаванні помнікаў (Е. Р. Раманаў, Авенарыус, Гразноў, В. А. Шукевіч і інш.). У рабоце к-та прымалі ўдзел Я. Ф. Карскі, І. К. Шуміцкі, Уварава, В. В. Шчарбіцкі. Магілёўскі губернатар А. С. Дамбавецкі фінансаваў і дапамагаў арганізацыйна археолагам Раманаву, Завітневічу, Фурсаву, С. Ю. Чалоўскаму і інш. у даследаванні помнікаў Паднипроўя, арыентаваў іх на збор матэрыялаў і для фонду Магілёўскага музея.

*Літ.:* 35, 513, 1134. *Г. А. Каханоўскі.*

**АРХЕАЛАГІЧНЫ МУЗЕЙ** Гродзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Я. Купалы. Адкрыты ў 1983. Пл. экспазіцыі 48 м², больш за 440 экспанатаў (1991). На 7 стэндах размешчаны рэчы палеаліту, неаліту, жалезнага веку, Кіеўскай Русі, Вял. кн. Літоўскага, позняга сярэднявечча, гербы бел. гарадоў. Экспануюцца косці, бівень і зуб мамантa з *Бердыжа* і Касцёнак, прылады працы са стаянкі *Гнесічы*, свідраваныя, каменныя сякеры неаліту, бронзавага і ранняга жал. вякоў (Гродзенскае Панямонне), кераміка Віцебшчыны (у т. л. штрыхаванай керамікі і днепрадзвінскай культур). Матэрыяльная культура гарадоў (Гродна, Віцебск, Слаўгарад, Чачэрск, Гомель, Шклоў, Магілёў і інш.) прадстаўлена керамікай 10—17 ст. (у т.л. днішчы гаршкоў з ганчарнымі клеймамі), гліңянымі грузіламі, гліңянымі і шыферными прасліцамі, прыладамі працы і рэчамі побыту (абломкі сярпоў, косы, жал. наральнікі, нажы, спружынныя і шарнірныя нажніцы, сталярна-слясарныя і ювелірны інструмент, каменныя жорны, тачыльныя брускі, ключы і дэталі замкоў, крэсівы 11—16 ст., дзвярныя кольцы, клямкі і прабоі), жаночымі ўпрыгожаннямі (розных форм і тыпаў бронзавыя і шкляныя бранзалеты, пацеркі, фібулы, спражкі), калекцыяй скураных вырабаў (багата арнаментаваныя чаравікі, поршні, дэталі ботаў, скураны кашалёк-каліта, дзіцячы мячык і інш.), прадметамі ўзбраення (наканечнікі стрэл, дроцікаў і коп'яў, каменныя ядры і інш.), рыштункам конніка і каня (шпоры, цуглі, спражкі збруйныя), прадметамі культу (свідраваныя зубы, крыж-«карсунчык», 2 энкалпіёны), бандарнымі вырабамі і інш. У экспазіцыі позняга сярэднявечча курыльныя гліняныя люлькі (белыя галандскія і чырвоныя мясцовыя), тэракотавая і паліваная кафля 14—18 ст., гаршкі і накрыўкі 16—17 ст. У раздзеле геральдыкі сярэдневяковыя гербы Гродна, Навагрудка, Ваўкавыска, Слоніма, Любчы, Ліды, Крэва, Ашмян, Радуні, Астрыны і інш. На сценах музея — размалёўка-карціна «Стаянка першабытных людзей» (6×3 м), планшэты-малюнкі з жыццця людзей старажытных часоў. У музеі праводзяцца экскурсіі, лекцыі па археалогіі, арганізуюцца выстаўкі археал. літаратуры.

*М. А. Ткачоў.*



Экспазіцыя **археалагічнага музея «Бярэсце».**

**АРХЕАЛАГІЧНЫ МУЗЕЙ «БЯРЭСЦЕ».** Заснаваны ў 1972. Адкрыты 2.3.1982 на тэр. Валынскага ўмацавання Брэсцкай крэпасці як філіял *Брэсцкага абласнога краязнаўчага музея* ў спецыяльна пабудаваным будынку (аўтар праекта М. К. Вінаградаў, гал. інжынер А. М. Кім, ін-т «Белдзяржпраект»). Для зберажэння рэштак стараж. пабудоў супрацоўнікі Бел. тэхналагічнага ін-та імя С. М. Кірава Ю. В. Віхроў, У. А. Барысаў і

С. Ю. Казанская пад кіраўніцтвам прафесара В. Я. Віхрова распрацавалі і ўпершыню ажыццявілі ў 1970—73 метад кансервацыі драўляных збудаванняў у палявых умовах. У музеі 14 экспазіцыйных залаў, пл. экспазіцыі 2400 м², больш за 40 тыс. экспанатаў (1991). Музей знаёміць з паліт., эканам. і культурным развіццём Бярэсця ў 11—14 ст. Аснову экспазіцыі складаюць больш за 30 драўляных жылых і гасп. пабудоў, рэшткі маставых, частаколы і інш. збудаванні, выяўленыя ў выніку археал. раскопак Берасцейскага гарадзішча (гл. ў арт. *Брэст*), якія дзякуючы кансервавальным якасцям магутнага культурнага пласта добра захаваліся на выш. да 12 вянкоў. Экспануюцца таксама прылады працы (сярпы, косы, сякеры, ліцейная форма, свярдзёлкі, рыдлёўкі, нажніцы), рыбалоўныя прылады (кручкі, блёсны), прадметы ўзбраення і амуніцыі конніка (наканечнікі коп'яў і стрэл, шпоры, цуглі, фрагменты даспехаў, кальчугі), прадметы побыту (замкі, ключы, крэсівы, нажы, дзвярныя кольцы і прабоі), упрыгожанні (металічныя і шкляныя бранзалеты, падвескі, пярсцёнкі, пацеркі, скроневыя кольцы, спражкі, фібулы і інш.), драўляныя колы, посуд, скураныя кашалькі і абутак, касцяныя вастрыі, накладкі і грабяні, шкляны посуд, шыферныя прасліцы. Сярод экспанатаў рэдкія знаходкі — самшытавы грэбень з выразнымі літарамі кірыліцы, касцяныя мастыхін, пісала, касцяная шахматная фігурка (кароль) і інш.

*Літ.*: 702.

*Р. Я. Іванова, П. Ф. Лысенка.*

**АРХЕАЛАГІЧНЫЯ З'ЕЗДЫ.** Скліkаліся па ініцыятыве Маскоўскага археал. т-ва. Падагульнялі вынікі археал. даследаванняў у Расіі. Адбылося 15 А.з: I у 1869 (Масква), II — 1871 (Пецярбург), III—1874 (Кіеў), IV—1877 (Казань), V—1884 (Адэса), VI—1887 (Яраслаўль), VII—1890 (Масква), VIII—1891 (Тбілісі), IX—1893 (Вільнюс, гл. *Археалагічны з'езд дзевяты*), X—1896 (Рыга), XI — 1899 (Кіеў), XII — 1902 (Харкаў), XIII—1905 (Днепрапятроўск), XIV—1908 (Чарнігаў), XV—1911 (Ноўгарад).

Ім папярэднічала падрыхтоўчая работа, асабліва ў месцах правядзення: арганізоўваліся археал. экспедыцыі, экскурсіі, выстаўкі. На А.з. слухаліся таксама даклады па гісторыі, геаграфіі, этнаграфіі, гісторыі мастацтва і мовы, нумізматыцы. З'езды садзейнічалі развіццю гіст. і археал. навукі ў Расіі.

**АРХЕАЛАГІЧНЫЯ КАРТЫ,** 1) геаграфічныя карты з нанесенымі на іх *археалагічнымі помнікамі*, стараж. знаходкамі, арэаламі пашырэння *археалагічных культур* і этнасаў.

2) Навук. работы, якія змяшчаюць спісы археал. помнікаў на пэўнай тэрыторыі рэспублікі, вобласці, раёна, рачнога басейна. Помнікі, як правіла, называюцца па бліжэйшым населеным пункце, радзей — урочышчы, вадаёме; прыводзіцца іх месцазнаходжанне адносна населенага пункта, берагавой лініі, пастаянных арыенціраў; паказваецца эпоха, перыяд або час іх утварэння, прыналежнасць да пэўнай культуры. Часам апісваюцца ўласцівасці помніка, якія вылучаюць яго з шэрага падобных (працягласць, магутнасць, парушэнні культурнага пласта, колькасць, вышыня, шырыня валоў, вышыня пляцоўкі помніка над узроўнем вады, колькасць і памеры курганных насыпаў і г. д.). Змяшчаюцца гісторыя даследавання помнікаў, бібліяграфія, археал. планы, фотаздымкі, малюнкі выяўленых у час раскопак рэчаў і інш. Найбольш вядомыя А. к. Беларусі: «Археалагічная карта Віленскай губерні» (1893) і *«Археалагічная карта Гродзенскай губерні»* (1895) Ф. В. Пакроўскага, «Помнікі жалезнага веку на тэрыторыі Палесся» і «Сярэдневяковыя помнікі Палесся» Ю. У. Кухарэнкі (абедзве 1961), «Старажытнасці Беларускага Панямоння» Ф. Д. Гурэвіч (1962), *«Археалагічная карта Беларусі»* (вып. 1 — Помнікі каменнага веку, 1968 і вып. 3 — Помнікі бронзавага веку, 1976, У. Ф. Ісаенкі; вып. 2 — Помнікі жалезнага веку і эпохі феадалізму, 1971, Г. В. Штыхава), «Славянскія старажытнасці Беларусі: (збор археалагічных помнікаў...)» (1974) і «Археалагічныя помнікі Беларусі. Жалезны век» (1983) Л. Д. Побаля і інш. *У. Ф. Ісаенка.*

**АРХЕАЛАГІЧНЫЯ КРЫНІЦЫ,** першапачатковая інфармацыя, якая ўтрымліваецца ў *археалагічных помніках* і *археалагічных культурах*, асновай якой з'яўляюцца археалагічныя даследаванні на першым этапе, праведзеныя па спец. методыцы і навукова дакументаваныя.

А. к. ўзбагачаюцца выкарыстаннем метадаў прыродазнаўчых і фізіка-тэхнічных дысцыплін [устанаўленне храналогіі і перыядызацыі помнікаў, правядзенне параўнальна-тыпалагічнага аналізу, вызначэнне астэалагічнага, палеабатанічнага матэрыялаў, глебазнаўчых і геамарфалагічных назіранняў і г. д., статыстычнай апрацоўкі калекцый, вывучэння функцый вырабаў, асабліва прылад працы (трасалогія) і тэхналогіі стараж. вытворчасці]. А. к. ацэньваюцца па аб'ёме і дакладнасці атрыманай інфармацыі і па навук. абгрунтаванасці тых метадаў, з дапамогай якіх яна атрымана (археал. крыніцазнаўства). Большасць археал. фактаў выяўляецца пры дапамозе статыстыкі. А. к. застаюцца навуковым фактам і захоўваюцца пасля знішчэння археал. помнікаў у выніку раскопак ці прыродных працэсаў.

На другім этапе археал. даследаванняў адбываецца пераўтварэнне А. к. у гістарычныя. *У. Ф. Ісаенка.*

**АРХЕАЛАГІЧНЫЯ МІКРАТАПОНІМЫ,** народныя назвы археал. аб'ектаў; адлюстроўваюць светаўспрыманне людзьмі рэштkаў стараж. помнікаў у сувязі з міфалогіяй, гіст. падзеямі, асобамі і інш. На Беларусі іх вядома каля 500.

Узнікалі ў розныя гіст. перыяды. Да ранніх А. м. адносяцца назвы гарадзішчаў: Гарадзец, Гарадок, Гарадзішча, Грудок, Горад, Дзявочая Гара, Лысая Гара, Чорная Гара і тыя, што звязаны з культавымі месцамі: Капавішча, Ігрышча, Гулебшчына, Пагулянка, Любашкава, Гуслішчы, Карагодзіца. Найбольш пашыраныя назвы курганоў — Капцы і Валатоўкі. Мікратанонім Капцы сустракаецца амаль па ўсёй тэр. рэспублікі, за выключэннем Палесся; тапонім Валатоўкі характэрны для басейна Зах. Дзвіны і, відаць, звязаны з родавым культам продкаў. Паводле паданняў у гэтых насыпах пахаваны волаты-асілкі, акамянелыя волаты. З культам продкаў суадносяцца назвы курганных могільнікаў Дзедаўскія Ямы, Дзеднае, а таксама Дубнішча, Дуб і г. д. (ва ўсх. славян дуб быў свяшчэнным дрэвам, дрэвам продкаў). Пасля прыняцця хрысціянства ўзніклі А. м. тыпу Званіца, Манастыр, Красты, Перахрэсце, Царквішча (гарадзішчы). Паводле пісьмовых крыніц не раней 16 ст. пачалі ўжывацца назвы Замак, Замэчак, Курган, Талерка. Да нашага часу стараж. курганы і курганныя могільнікі насельніцтва называе татарскімі, крыжацкімі, шведскімі, французскімі, маскоўскімі, мікалаеўскімі магіламі — прыклад прымеркавання даўняй гіст. памяці народа да пазнейшых падзей. Нярэдкія і персаніфікаваныя А. м.: Замак Рагнеды, Замак каралевы Боны, Карлаўка, ці Лізавецiна Гара, Пятроўскі Вал, Баторыева Гара, Камень Напалеона, знакамітыя *Барысавы камяні* і інш. На Пд Беларусі, акрамя пашыраных назваў Акоп, Выспа, Востраў, Груда, Прыстань, частыя мікратапонімы са словам «тур» — Турава Гара, Турскі курган, Турска (бескурганны могільнік). Некаторыя археал. аб'екты захавалі дублетныя назвы (гарадзішча Пагулянка-Замак). А. м. з'яўляюцца помнікамі гісторыі краю і народа.

*Літ.*: 59, 345, 505, 810, 1111.

*Л. У. Дучыц.*

**АРХЕАЛАГІЧНЫЯ ПЛАНЫ.** Афармляюцца паводле правіл, прынятых у тапаграфічным чарчэнні, наносяцца ўмоўныя знакі, што прымяняюцца ў палявой археалогіі. Падзяляюцца на сітуацыйныя (вызначаюць месцазнаходжанне аднаго або групы помнікаў), уласна помніка (участка, дзе ён размешчаны) і раскопаў, якія былі закладзены на помніку.

Для сітуацыйных планаў маштабы больш дробныя — 1:5000, 1:10 000 або

1 : 25 000. Планы паселішчаў здымаюцца ў гарызанталях праз 0,25 або 0,5 м маштабамі 1 : 500, 1 : 1000, а зрэдку 1 : 200 (для невялікіх) або 1 : 2500; гарадзішчаў у бергштрыхах, радзей у гарызанталях праз 0,5 або 1 м маштабамі 1 : 100, 1 : 500, 1 : 1000 (для буйных). На планы курганных могільнікаў наносяць усе насыпы, абрысы робяць па іх аснове, нумаруюць, абавязкова наносяць пастаянныя арыенціры, берагавыя лініі, бліжэйшы населены пункт або напрамак да яго і адлегласць. Планы раскопаў маюць буйны маштаб: 1 : 2, 1 : 5 (палеаліт, пахаванні), 1 : 10 (палеаліт, гарады), 1 : 20, 1 : 40 (неаліт, паселішчы). Наносяцца квадраты 1×1, 2×2, радзей 5×5 м, адзначаюцца перавышэнні вяршынь квадратаў з дакладнасцю 1—3 см (нівеліроўка). У маштабах, адпаведных планам, вычэрчваюцца вертыкальныя профілі (разрэзы) раскопаў, на іх наносяцца ўсе напластаванні, культурныя або буд. гарызонты, якія сустракаюцца, месцазнаходжанні старaж. знаходак, і, такім чынам, планіграфія помніка дапаўняецца стратыграфіяй.

*Літ.:* 4, 775. *У. Ф. Ісаенка.*

**АРХЕАЛАГІЧНЫЯ ПОМНІКІ**, старaж. прадметы, збудаванні або пахаванні, што захаваліся на зямной паверхні, пад зямлёй або пад вадой і з'яўляюцца аб'ектам археал. даследаванняў. А. п.— рэчавыя гіст. крыніцы, па якіх можна аднавіць мінулае чалавечага грамадства. Да А. п. адносяцца: выкапнёвыя прылады працы, зброя, хатняе начынне, адзенне, упрыгожанні, пасяленні *(стаянкі, паселішчы, гарадзішчы, селішчы),* рэшткі асобных жытлаў, гідратэхнічных збудаванняў (старaж. сістэм арашэння, каналаў, плацін, водаправодаў), майстэрні, горныя выпрацоўкі, пячоры, палі старaж. земляробства, дарогі, старaж. ўмацаваныя лініі (абарончыя валы, равы), пабудовы на палях, малюнкі і надпісы, высечаныя на асобных камянях і скалах, архіт. помнікі. Да пахавальных помнікаў належаць курганныя і бескурганныя (грунтавыя) *могільнікі, каменныя курганы* і *каменныя могільнікі.* Пахавальныя абрады падзяляюць на 2 асноўныя віды: трупаспаленне і трупапалажэнне. Да надмагільных і культавых збудаванняў адносяцца каменныя стэлы, *каменныя бабы, каменныя крыжы, Барысавы камяні, камяні з паглыбленнямі, камяні са знакамі, камяні «чортавы», камяні-краўцы, следавікі, ідалы, свяцілішчы* і інш. А. п. з'яўляюцца таксама затанулыя ў рэках і морах старaж. судны і іх грузы, паселішчы, якія апынуліся пад вадой (гл. *Падводная археалогія)* і інш. На Беларусі вядома каля 900 помнікаў каменнага і бронзавага вякоў, каля 1500 гарадзішчаў і селішчаў ранняга жал. веку, каля 6 тыс. курганных могільнікаў.

*Літ.:* 3, 384, 847, 848.

*У. Дз. Будзько.*

**АРХЕАЛАГІЧНЫЯ РАСКОПКІ,** гл. *Раскопкі археалагічныя.*

**АРХЕАЛАГІЧНЫЯ ФОНДЫ,** матэрыялы, знойдзеныя ў час археал. разведак і раскопак, якія зберагаюцца ў многіх музеях рэспублікі, музеях некаторых навуч. устаноў. У фондах крамянёвыя прылады працы, адходы апрацоўкі крэменю, керамічны посуд і яго рэшткі, вырабы са шкла (пацеркі, бранзалеты, шклянкі), бронзы і жалеза (сярпы, сякеры, пярсцёнкі, фібулы), са скуры (абутак, кашалі), рогу і косці (крукі, грабяні, гузікі), дрэва (часткі зрубаў хат, маставых, частаколаў, чарпакі), а таксама косці свойскіх і дзікіх жывёл, чалавека. Найбольш багатыя А. ф. ў Дзяржаўным музеі Беларусі і Інстытуце гісторыі АН Беларусі. Калекцыя інстытута складаецца з матэрыялаў розных эпох, тут захоўваюцца рэчы з раскопак К. М. Палікарповіча, А. Дз. Кавалені, А. М. Ляўданскага, С. С. Шутава і інш.

**«АРХЕАЛОГІЯ»** («Археологія»), навук. часопіс, орган Ін-та археалогіі АН УССР і Украінскага рэспубліканскага т-ва аховы помнікаў гісторыі і культуры ў 1971—87, з 1989 — орган Ін-та археалогіі АН Украіны. Выходзіць у Кіеве на ўкр. мове з 1971 і з'яўляецца працягам серыі аднайменных штогоднікаў, якія выдаваліся ў 1947—70. Асвятляе пытанні развіцця археал. навукі Украіны, змяшчае матэрыялы навук. даследаванняў, распрацовак па археалогіі, ахове помнікаў, паведамленні, рэцэнзіі, хроніку, бібліяграфію. У часопісе друкаваліся артыкулы бел. археолагаў Л. Д. Побаля, М. Ф. Гурына, рэцэнзіі і навук. водзывы на іх працы, артыкул В. М. Мельнікоўскай пра раскопкі могільніка і паселішча жал. веку каля в. Гарошкаў Рэчыцкага р-на. *С. Я. Расадзін.*

**АРХЕАЛОГІЯ АБАРОНЧЫХ ЗБУДАВАННЯЎ.** Вывучае помнікі ваенна-інжынернага мастацтва. На Беларусі ўзнікла ў пач. 20 ст. У 1903 пад кіраўніцтвам акад. У. В. Суслава вывучаўся архіт. помнік 13 ст. *Камянецкая вежа:* вакол яе даследаваны пласт таўшч. 3 м, знесены земляны вал, закапаны роў, праведзены архіт. абмер вежы, зроблены графічныя разрэзы, над 1-м і 2-м ярусамі разабраны познія скляпенні. Распрацаваны праект рэстаўрацыі вежы. У 1909 невялікія археал. даследаванні, фотафіксацыя і архіт. абмеры праведзены ў *Лідскім замку.* На іх ажыццяўленне і часовую кансервацыю Пецярбургская археал. камісія адпусціла 943 руб. У 1924—25 пад кіраўніцтвам польскага археолага Р. Портлера праведзены архіт.-археал. работы ў *Навагрудскім замку* — выяўлены лініі сцен, рэшткі двух раней невядомых веж і руіны храма 14 ст., зроблена частковая кансервацыя помніка. У 1928—29 польскія архітэктары Е. Ромэр і Ст. Лёрэнтц праводзілі невял. даследаванні ў Лідскім і Крэўскім замках у сувязі з іх кансервацыяй і частковай рэстаўрацыяй. У 1930—31 Р. Якімовіч вывучаў унутрывальныя драўляныя канструкцыі ў Давыд-Гарадку. У 1932—39 Ю. Ядкоўскі і З. Дурчэўскі праводзілі археал. раскопкі ў *Гродзенскім Старым замку,* у выніку якіх былі адкрыты помнікі 12 ст.— *Гродзенская Ніжняя царква, Гродзенскі княжацкі палац, Гродзенская Верхняя царква,* храм рубяжа 13 і 14 ст., участак абарончай сцяны 12 ст. з плінфы (гл. *Гродзенскія муры*), будынкі 15—17 ст., узведзеныя з цэглы і каменю, у т. л. руіны мураванага замка канца 14 ст. У 1949 гэтыя работы былі працягнуты групай сав. археолагаў (П. А. Рапапорт, В. В. Сядоў, Ф. Д. Гурэвіч, Л. В. Аляксееў і інш.) пад кіраўніцтвам М. М. Вароніна. У 1950—60-я г. абарончыя збудаванні Тураўскай і Полацкай земляў і Бел. Панямоння вывучаў Рапапорт (зняў планы большасці гарадзішчаў 10—14 ст., зрабіў прарэзку валоў у Навагрудку, даследаваў Камянецкую вежу), разам з Гурэвіч даследаваў умацаваныя гарадзішчы Верхняга Панямоння. Значны ўклад у высвятленне храналогіі будаўніцтва ўмацаванняў гарадоў Полаччыны, Палесся і Панямоння ўнеслі Г. В. Штыхаў, П. Ф. Лысенка, Я. Г. Зверуга і інш. У 1960-я г. Э. М. Загарульскі вывучаў драўляныя перакладныя ўнутрывальныя канструкцыі старaж. Мінска, зрабіў прарэзку валоў на гарадзішчах у Копысі і Вішчыне. З 1969 архіт.-археал. даследаванні абарончых збудаванняў на Беларусі праводзіў М. А. Ткачоў. У Навагрудку знойдзены рэшткі мураваных вежаў 13 ст., зроблены прарэзкі валоў, вызначаны час іх узвядзення (11 ст.), даследаваны комплекс мураванага замка. Вывучаліся планавая кампазіцыя, канструкцыйныя асаблівасці сцен і вежаў у Лідскім і Крэўскім замках, адкрыты бастэйныя мураваныя ўмацаванні ў Геранёнскім і Іказнёнскім замках, абарончая вежа-данжон 15 ст. ў Мядзельскім замку. Даследаваліся комплекс сярэдневяковых умацаванняў Гродзенскага, Мірскага, Віцебскага Верхняга і Ніжняга замкаў, абарончыя збудаванні гарадоў і замкаў Беларускага Пасожжа, Падзвіння, Цэнтр. і Паўд. Беларусі. У 1980-я г. А. А. Трусаў пры ўдзеле групы бел. і ленінградскіх даследчыкаў (А. К. Краўцэвіч, І. М. Чарняўскі, Ткачоў, Рапапорт, Г. М. Бальшакоў, Г. М. Сагановіч і інш.) правёў значныя раскопкі ў Мірскім, Лідскім, Крэўскім, Гродзенскім замках. Трусаў, Ткачоў і Рапапорт адкрылі і вывучылі абарончыя збудаванні 12 ст. з плінфы на Гро-

дзенскім замку. Вынікі раскопак апублікаваны ў манаграфіях і зборніках.

*Літ.:* 272, 275, 385, 425, 703, 949, 950, 1189, 1200, 1226, 1347.

*М. А. Ткачоў.*

**«АРХЕАЛО́ГІЯ І ГІСТО́РЫЯ ПСКО́ВА І ПСКО́ЎСКАЙ ЗЯМЛІ́»,** тэзісы дакладаў навук.-практычных канферэнцый, якія праводзяцца пад той жа назвай у Пскове з 1980 2—3 разы ў год на базе Пскоўскага дзярж. аб'яднанага гістарычна-архіт. і мастацкага музея-запаведніка. У канферэнцыі прымаюць удзел вучоныя Пскова, паўн.-зах. абласцей Расіі, Масквы, Прыбалтыкі і Беларусі.

Заслухоўваюцца даклады і паведамленні па археалогіі Пскова, інш. стараж. гарадоў Русі, інфармацыя пра палявыя даследаванні ў лясной паласе Усх. Еўропы, у т. л. па культуры доўгіх курганоў, слав. язычніцтве. Выдадзена 9 выпускаў тэзісаў у Пскове на рус. мове.

У выпуску 1987 змешчаны працы бел. археолагаў: пра адкрыццё полацкага пасада 8—9 ст. (С. В. Тарасаў), пра раскопкі курганных могільнікаў 2-й пал. 1-га тысячагоддзя н. э. на ПнЗ Беларусі (В. І. Шадыра, Л. У. Дучыц), этнагістарычную геаграфію рэспублікі (Вас. А. Булкін, А. С. Герд). У зборніку 1988 змешчаны матэрыялы: пра раскопкі шматпластавога селішча і кургана з трупаспаленнем у Гарадку Віцебскай вобл. (В. М. Ляўко), абарончыя збудаванні Мінска 2-й пал. 11—12 ст. (Ю. А. Заяц), пра крэмацыю як адзін з атрыбутаў слав. язычніцкай рэлігіі (Л. Д. Побаль), асаблівасці геаграфіі смаленска-полацкіх доўгіх курганоў з вылучэннем палачан у асобную групу славян, што прыйшлі з Дуная (Булкін). У выпуску 1989 змешчаны публікацыі: пра познафеадальныя гарады Друю і Дзісну (В. Я. Зайцава), гарадзішча і селішча каля в. Гарадзішча Пінскага р-на (В. С. Вяргей, А. В. Іоў), каменныя могільнікі Бел. Панямоння 10—17 ст. (А. В. Квяткоўская), каменны могільнік 10—13 ст. у в. Вензаўшчына Шчучынскага р-на (А. І. Кушнір), язычніцкія свяцілішчы (Э. М. Зайкоўскі), валуны (Э. А. Ляўкоў), ролю язычніцтва ў сацыяльна-паліт. структуры і матэрыяльнай культуры Полацка 8—11 ст. (Тарасаў), вынікі вывучэння кавальскага рамяства на Беларусі ў 16—18 ст. (Г. М. Сагановіч), пра нар. назвы археал. помнікаў (Дучыц), аб умацаваннях Себежа і Невеля 14—18 ст. (М. А. Ткачоў). У выпуску 1990 змешчаны публікацыі: пра фарміраванне граніц Полацкай зямлі ў XI ст. (Г. М. Семянчук), аб адной групе пахаванняў Заслаўскага курганнага могільніка (Заяц), новыя даныя аб помніках жалезнага веку Паўночна-Усходняй Беларусі (Ляўко, Ю. У. Каласоўскі), аглядны нарыс пра жалезны век паўночнай Беларусі ў даследаваннях А. Р. Мітрафанава (Шадыра), пра мілаградскую культуру (С. Е. Расадзін), пра сердалікавыя пацеркі заходнерускіх зямель (па матэрыялах помнікаў 10—13 ст. Днепра-Дзвінскага міжрэчча, З. М. Сяргеева), пра паходжанне гарадоў Беларускага Пасожжа (А. А. Мяцельскі).

*Г. В. Штыхаў.*

**АРХЕАЛО́ГІЯ КУ́ЛЬТАВЫХ ПО́МНІКАЎ.** Археалагічнае вывучэнне стараж. культавых помнікаў на Беларусі пачалося ў канцы 18 — пач. 19 ст. Адным з першых цалкам раскапаных стараж. архіт. помнікаў быў храм-трыконх Бельчыцкага Барысаглебскага манастыра ў Полацку (гл. ў арт. *Бельчыцкія храмы*). Спачатку вывучаліся помнікі, што захаваліся, пазней і тыя, што разбурыліся. Вывучэнне помнікаў часоў Кіеўскай Русі было ўключана ў праграмы створанага ў 1864 у Маскве Археал. т-ва. З 1870-х г. у даследаваннях сталі прымаць удзел прафесійныя архітэктары. Пэўную ролю у развіцці гісторыка-архіт. навукі адыгралі *археалагічныя з'езды.* У канцы 19 ст. даследчыкі культавых помнікаў поруч з апісаннем помнікаў і характарыстыкай розных архіт. школ спрабавалі паказаць развіццё рус. архітэктуры, шукаючы яе вытокі ў 10—13 ст. У 1894 выйшла «Гісторыя рускай архітэктуры» А. М. Паўлінава, які вывучаў таксама помнікі Полацка і Віцебска. У пач. 20 ст. аднaчасова з рэстаўрацыяй некаторых стараж. храмаў праводзілася і іх архіт.-археал. даследаванне. На Беларусі ў гэты час працаваў рэстаўратар П. П. Пакрышкін, які даследаваў *Полацкі Сафійскі сабор* і *Гродзенскую Барысаглебскую царкву.*

У 1920—30-я г. архіт. даследаванні на Беларусі праводзілі сав. і польскія археолагі. І. М. Хозераў у Полацку ў 1928 вывучаў рэшткі Пятніцкай, Барысаглебскай цэркваў і Вялікага сабора Бельчыцкага манастыра. У 1933—34 Ю. Ядкоўскі адкапаў рэшткі *Гродзенскай Ніжняй царквы* на Старым замку, у 1935 даследаваў Гродзенскую Барысаглебскую царкву. Рэшткі царквы 14 ст. былі выяўлены польскімі рэстаўратарамі на тэр. Замкавай гары ў Навагрудку. Шырокія даследаванні культавага дойлідства разгарнуліся на Беларусі ў пасляваенны час. Полацкія храмы 11—12 ст. вывучалі Хозераў, М. К. Каргер, П. А. Рапапорт, Вал. А. Булкін, Г. В. Штыхаў, *Віцебскую царкву Звеставання* 12 ст.— Штыхаў, Каргер, А. А. Трусаў і Рапапорт. Гродзенскія храмы 12 ст. даследавалі Хозераў, М. М. Воранін, І. М. Чарняўскі, Трусаў і Рапапорт. Рэшткі *Ваўкавыскага храма* 12 ст. раскапалі Г. І. Пех, Рапапорт і Каргер. Даследаванні Мінскага храма 12 ст. праводзілі В. Р. Тарасенка і Э. М. Загарульскі. Барысаглебскую царкву ў Навагрудку вывучалі Каргер, Рапапорт і Трусаў. У 1963—64 Каргерам раскапана Тураўская царква. У 1970—80-я г. пачынаецца вывучэнне бел. культавага дойлідства 14—18 ст. Царкву 14—17 ст. у Навагрудку даследавала М. У. Малеўская. Абарончыя храмы ў Мураванцы (Шчучынскі р-н) і Сынковічах (Зэльвенскі р-н), касцёлы ва Уселюбе (Навагрудскі р-н), Гнезне (Ваўкавыскі р-н), Клецку, Гальшанах (Ашмянскі р-н) і Іўі, кальвінскія зборы ў Кухцічах (Уздзенскі р-н) і Новым Свержані (Стаўбцоўскі р-н) даследаваў А. М. Кушнярэвіч. Чарняўскі правёў раскопкі на тэр. Мікалаеўскага манастыра ў Магілёве, кляштара базыліянак у Гродне, Куцеінскага манастыра ў Оршы і цыстэрыянскага кляштара 18 ст. ў Мазыры. Культавыя помнікі Мсціслава 17—18 ст. вывучаў Трусаў, Мінска — З. С. Пазняк і В. Е. Собаль. І. І. Сінчук правёў раскопкі кармеліцкага касцёла ў Магілёве, А. К. Краўцэвіч — францысканскага кляштара ў Ашмянах і Троіцкага касцёла ў Воўчыне (Камянецкі р-н), Г. М. Сагановіч — брыгіцкага кляштара ў Гродне, В. М. Ляўко вывучала культавыя помнікі 17—18 ст. у Віцебску і Оршы.

*Літ.:* 174, 206, 493, 851, 959, 1226, 1260.

*А. А. Трусаў.*

**АРХЕАЛО́ГІЯ ПО́МНІКАЎ АРХІТЭКТУ́РЫ.** Вызначае месцазнаходжанне рэштак загінуўшых або значна перарobленых помнікаў манументальнай архітэктуры, вывучае іх і на аснове атрыманых звестак аднаўляе планы і па магчымасці рэканструюе фасады і асн. аб'ёмы помнікаў у цэлым.

У канцы 18 — пач. 19 ст. манументальную архітэктуру вывучалі гісторыкі архітэктуры і мастацтвазнаўцы, археал. даследаванні мелі дапаможны характар. У 1820—40-я г. ў Зах. Еўропе, у канцы 19 — пач. 20 ст. ў Расіі пачаліся археал. даследаванні архіт. помнікаў. У 1930—40-я г. А. п. а. вылучылася ў самастойную галіну археалогіі. У пасляваенныя гады распрацавана методыка археал. вывучэння архіт. помнікаў, праводзіцца іх сумеснае даследаванне аб'яднанымі экспедыцыямі археолагаў, архітэктараў-рэстаўратараў, гісторыкаў архітэктуры, мастацтвазнаўцаў. У апошні час вучоныя звяртаюць вял. ўвагу на вывучэнне буд. матэрыялаў і інш. археал. знаходак, якія дазваляюць дакладна вызначыць час асн. перабудоў помніка.

На Беларусі першыя археал. даследаванні архіт. помніка праведзены ў 1790-я г., калі ў Полацку невядомы даследчык раскапаў падмуркі храма-трыконха Бельчыцкага Барысаглебскага манастыра 12 ст. (гл. *Бельчыцкія храмы*). У 1-й пал.

19 ст. на Беларусі праводзілася візуальнае мастацтвазнаўчае і гісторыка-архіўнае вывучэнне помнікаў архітэктуры.

Пасля задушэння нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863—64 гісторыя і культура беларусаў трактаваліся толькі з манархічных, вялікадзяржаўных і клерыкальных пазіцый. Вял. ролю ў прапагандзе шавіністычных ідэй адыгрывала праваслаўная царква, якая атрымлівала значныя матэрыяльныя сродкі на будаўніцтва і рамонт сваіх храмаў. Рэшткі стараж. цэркваў 11—14 ст. разглядаліся і прапагандаваліся як сведкі «праваслаўнай старызны» і процістаўляліся больш познім помнікам архітэктуры, стылявыя асаблівасці якіх адносілі да польскай каталіцкай культуры. Прычым час будаўніцтва шмат якіх праваслаўных храмаў свядома рабілі больш старажытным. Напр., будаўніцтва царквы ў Сынковічах адносілі да 10 ст., хоць яна была ўзведзена ў канцы 15 — пач. 16 ст. Польская бурж. навука таксама праводзіла нацыяналістычную лінію і разглядала бел. архітэктурныя помнікі як польскія або ў крайнім выпадку як літоўскія. Нягледзячы на гэта, рускія і польскія даследчыкі 19 ст. сабралі вял. фактаалгічны матэрыял па гісторыі архітэктуры і спрабавалі яго крытычна асэнсаваць. Было абследавана шмат помнікаў, зроблены іх першасныя абмеры, вывучаліся буд. матэрыялы і сістэмы муровак. Археалагічна-архіт. даследаванні спалучаліся з рамонтна-рэстаўрацыйнымі работамі.

А. п. а. на Беларусі пачала хутка развівацца ў канцы 1920 — пач. 1930-х г. Працы І. М. Хозерава, М. М. Шчакаціхіна і інш. не страцілі навук. каштоўнасці і цяпер. Раскопкі полацкіх архіт. помнікаў 12 ст., праведзеныя на высокім навук. узроўні, далі пачатак вылучэнню самастойнай полацкай архіт. школы. У Зах. Беларусі манументальнае дойлідства па традыцыі аб'ядноўвалася помнікамі польскай культуры. Толькі некаторыя польскія археолагі (З. Дурчэўскі і інш.) імкнуліся да аб'ектыўнага тлумачэння даследаваных помнікаў. У пасляваенны перыяд А. п. а. характарызуецца вял. аб'ёмам пошукавых работ, у выніку якіх выяўлены дзесяткі раней невядомых помнікаў. Раскопкі М. М. Вароніна, М. К. Каргера, П. А. Рапапорта, Вал. А. Булкіна дазволілі па-новаму ўбачыць і растлумачыць складаныя працэсы станаўлення і развіцця старaж. архітэктуры на тэр. Беларусі. З канца 1960-х г. пачаліся раскопкі помнікаў 13—18 ст., іх вынікі надрукаваны ў працах М. А. Ткачова і М. У. Малеўскай, якія дапоўнілі раздзелы гісторыі архітэктуры Беларусі, прысвечаныя ранняй готыцы і фартыфікацыі. У апошні час шырока вывучаецца культавая і грамадзянская архітэктура эпохі Рэнесансу і барока (раскопкі І. М. Чарняўскага, З. С. Пазняка, А. М. Кушнярэвіча і інш.; гл. *Археалогія абарончых збудаванняў, Археалогія помнікаў грамадзянскай архітэктуры, Археалогія культавых помнікаў).*

*Літ.:* 204, 792, 955, 1226.

*А. А. Трусаў.*

**АРХЕАЛО́ГІЯ ПО́МНІКАЎ ГРАМАДЗЯ́НСКАЙ АРХІТЭКТУ́РЫ.** Вывучае рэшткі загінуўшых або значна перароблeных будынкаў жылога, грамадзянскага і гасп. прызначэння. У 1930-я г. Ю. Ядкоўскі раскапаў рэшткі *Гродзенскага княжацкага палаца* 12 ст. на Старым замку. М. М. Варонін, які даследаваў помнік у 1949, лічыў, што Ядкоўскі выявіў руіны паўд. абарончай вежы дзядзінца (гл. *Гродзенскія муры*). У 1977 П. А. Рапапорт на полацкім дзядзінцы знайшоў падмуркі харама. Даследчык адзначыў, што падобныя будынкі з-за адсутнасці ў іх эфектыўных ацяпляльных прыстасаванняў не маглі выкарыстоўвацца для жылля, у іх праводзіліся ўрачыстыя княжацкія застоллі і прыёмы замежных паслоў. Харам разам з царквою ўваходзіў у комплекс княжацкага палаца, астатнія будынкі былі драўляныя. У пач. 14 ст. пасля паяўлення кафляных печаў полацкі харам выкарыстоўваўся для жылля. У 14—15 ст. у Гродзенскім хараме размяшчаўся склад вайсковага рыштунку. Пры даследаваннях *Гродзенскага Старога замка* ў 1930-х г. Ю. Вайцяхоўскі знайшоў рэшткі двухпавярховага палаца 15 ст., які быў пабудаваны над усх. схілам узвышша з абарончымі мурамі і вежамі. У 2-й пал. 16 ст. пры перабудове замка было зменена аблічча палаца. Будаўніцтва гатычнага гродзенскага замка паклала пачатак пераўтварэнню гэтага тыпу пабудоў у палацавы комплекс з развітай сістэмай жылых і гасп. будынкаў. Даследаванні *Крэўскага замка,* праведзеныя ў пач. 1970-х г. М. А. Ткачовым, канцы 1970 — пач. 80-х г. А. А. Трусавым і ў канцы 1980 — пач. 90-х г. І. М. Чарняўскім, паказалі, што княжацкая вежа, пабудаваная крыху пазней за яго абарончыя муры, з'яўляецца адным з першых на Беларусі данжонам — жылой вежай з функцыямі абароны ў замку. Побач з замкавай брамай знаходзіўся прамавугольны мураваны будынак, у якім, мяркуючы па знаходках гаршковай кафлі і фрагментаў керамічнага посуду, размяшчалася жыллё (захаваліся падмуркі і частка падвала). Драўляныя жылыя будынкі, дзе размяшчаліся гарнізон і прыслуга, знаходзіліся каля паўн.-зах. абарончага мура на замкавым муры. Такія ж будынкі існавалі ў Лідскім замку. У канцы 14 — пач. 15 ст. тут была пабудавана паўн.-ўсх. вуглавая вежа, у якой на 1-м паверсе знаходзіліся каміны для абагравання памяшканняў, пакоі на верхніх паверхах ацяпляліся кафлянымі печамі. Раздзяленне функцый абароннай і грамадзянскай адбываюцца пры перабудове ў 2-й пал. 16 ст. Мірскага замка. Даследаванні ў 1970-х г. Ткачова і ў 1-й пал. 1980-х г. Трусава і Чарняўскага выявілі рэшткі першапачатковага гатычнага аднапавярховага палаца каля паўд. абарончага мура, дзе з пач. 17 ст. знаходзілася кухня. У 2-й пал. 16 — пач. 17 ст. каля ўсх. і паўн. абарончых муроў узведзены трохпавярховы палац. З вонкавага боку пад зах. і паўд. сценамі пабудаваны аднапавярховыя пякарня, піварня, стайня з вежай, брама была ўмацавана падковападобным прадбрам'ем. У 2-й пал. 16 ст. ўзведзены абарончыя ўмацаванні бастыённага характару за 80 м ад замкавых муроў. Пры раскопках у замку знойдзены фрагменты разнастайных пячных кафляў, элементы каменнага аздаблення аконных і дзвярных праёмаў, скабяныя вырабы, дэталі інтэр'ераў, якія сведчаць пра імкненне стварыць выгадныя ўмовы для жылля ў палацы. У гасп. будынках размяшчаліся службы, якія цалкам забяспечвалі жыццядзейнасць замка. Раскопкі найбольш ранняга на Беларусі бастыённага замка ў Заслаўі, у якім былі раздзелены функцыі абароны і жылля, праводзілі ў канцы 1970-х г. Трусаў і ў сярэдзіне 1980-х г. Ю. А. Заяц. Даследаванні ў сярэдзіне 1980-х г. Чарняўскім замкаў у Гальшанах і Любчы пацвярджаюць перамены гэтага тыпу пабудоў. Пры захаванні замкнёных планаў, утвораных жылымі і гасп. будынкамі, назіраецца раздзяленне абарончых і жылых функцый. З 2-й пал. 16 ст. ў бел. гарадах і мястэчках узводзяць мураваныя ратушы, цэйхгаўзы, крамы, паяўляецца муараванае жыллё. Архіт.-археал. даследаванні такіх будынкаў, праведзеныя ў 1980-х г. Трусавым, Ткачовым, В. Е. Собалем, Чарняўскім у Магілёве, Мінску, Віцебску, Нясвіжы, а таксама Гайцюнішскага дома-крэпасці (Воранаўскі р-н) сведчаць пра інтэнсіўнае развіццё мураванага будаўніцтва з выкарыстаннем шырокага асартыменту буд. і архіт.-дэкар. керамікі, скабяных і сталярных вырабаў, характэрных для бел. дойлідства 16—18 ст. Такімі ж асаблівасцямі вызначаюцца і грамадзянскія будынкі ў манастырах і кляштарах Мінска, Гродна, Пінска, Нясвіжа і інш. Па выніках даследаванняў аднаўляюцца планы, рэканструюцца фасады і асн. аб'ёмы помнікаў, як частак або элементаў так і інтэр'ераў у цэлым.

*Літ.:* 206, 961, 1200, 1221, 1227, 1283

*І. М. Чарняўскі*

**«АРХЕАЛО́ГІЯ СССР»,** серыя кніг па археал. даследаваннях на тэр. СССР з найстаражытнейшых часоў да сярэднявечча, якая выдаецца з 1981 Ін-там археалогіі АН СССР у

20 тамах (выйшла 10 тамоў, кнігі не нумаруюцца). Большасць прац напісана калектывам аўтараў, у іх прыводзіцца бібліяграфія.

У кнізе «Усходнія славяне ў VI—XIII ст.» (1982) В. В. Сядова (Дзярж. прэмія СССР 1984) значная частка прысвечана характарыстыцы археал. помнікаў на тэр. Беларусі. Старажытнасці калочынскага тыпу (гл. *Калочынская культура*) і культуру тыпу Тушамлі — Банцараўшчыны (гл. *Банцараўская культура*) аўтар адносіць да балцкай этнамоўнай групы і лічыць, што пачынаючы з 6 ст. на тэр. рассялення дняпроўскіх і дзвінскіх балтаў прысутнічаюць слав. культурныя элементы (паўзямлянкі з тыповым слав. інтэр'ерам), што сведчыць пра пачатак інфільтрацыі славян. Разглядаючы помнікі культуры *доўгіх курганоў* Полаччыны, Пскоўшчыны і Смаленшчыны, аўтар сцвярджае, што крывічы фарміраваліся ва ўмовах узаемадзеяння славян з мясц. балцкім і прыбалтыйска-фінскім насельніцтвам. З прыведзеных у кнізе матэрыялаў вынікае, што ў курганах крывічоў, дрыгавічоў і радзімічаў 9—13 ст. прысутнічае шмат балцкіх элементаў. У курганах радзімічаў 11—12 ст. балцкія элементы трапляюцца ў большай колькасці, чым у інш. племянных арэалах, гэта сведчыць пра больш позняе рассяленне славян у Пасожжы. У Брэсцкім Пабужжы і Верхнім Панямонні прасочваюцца ўплывы ці наяўнасць усх.-слав. плямён дрыгавічоў, валынян, крывічоў і зах.-балцкіх плямён ятвягаў і мазаўшан. На падставе археал. матэрыялаў на тэр. Беларусі вылучаюць даліхакранны шыракатвары антрапалагічны тып, які з'яўляецца спадчынай мясц. балтаў, асіміляваных славянамі. Ён паслужыў субстратам паяўлення беларусаў. У кнізе «Палеаліт СССР» (1984) у сувязі з вызначэннем помнікаў вілендорфска-касцёнкаўскай культуры разглядаецца Бердыжская стаянка (гл. *Бердыж*). У выданні «Старажытная Русь: Горад, замак, сяло» (1985) даюцца вынікі даследавання стараж. гарадоў, ваенна-адм. цэнтраў, гар. двароў-сядзіб, умацаваных феад. замкаў, сельскіх паселішчаў, прыводзяцца характарыстыкі дзесяткаў тысяч знаходак з археал. раскопак. Храналагічна том ахоплівае 2 перыяды гісторыі Стараж. Русі: 9 — рубеж 11—12 ст. (існаванне Старажытнарус. дзяржавы) і пач. 12—14 ст. (перыяд феад. раздробленасці). У выданні ўлічана 1395 умацаваных паселішчаў 10—13 ст., археал. раскопкі праводзіліся ў 862 пунктах. Сярод важнейшых гарадоў Стараж. Русі на аснове археал. даных разглядаюцца Полацк, Мінск, Друцк, Тураў, Навагрудак, Гродна, Мсціслаў. У калектыўнай манаграфіі «Эпоха бронзы лясной паласы СССР» (1987) пры характарыстыцы *сярэднедняпроўскай культуры* выкарыстоўваюцца матэрыялы з раскопак помнікаў *Ходасавічы* і Страліца (гл. *Рудня-Шлягіна*). У выданні «Фіна-угры і балты ў эпоху сярэднявечча» (1987) увага аддадзена праблеме культурных кантактаў усх. славян з суседнімі плямёнамі прыбалтыйскіх, паволжскіх, прыкамскіх фінаў, а таксама з латышскімі, літоўскімі, прускімі, ятвяжскімі плямёнамі, якія жылі на тэр. Усходнееўрап. раўніны, уключаючы тэр. Беларусі. У томе «Мезаліт СССР» (1989) спец. раздзел прысвечаны мезаліту Беларусі і Літвы, у якім станоўча ацэньваюцца дасягненні бел. археолагаў у вывучэнні помнікаў Прыпяцкага Палесся (падзел на зах. і ўсх. групы), Бел. Падняпроўя, дзе выяўлена сувязь мезалітычных помнікаў з культурнымі традыцыямі палеаліту, у вылучэнні на правабярэжжы Дняпра і Бярэзіны ранняга і позняга этапаў, абгрунтаванні вываду пра тое, што мезалітычная культура паўд.-ўсх. Беларусі з'явілася асновай фарміравання верхнедняпроўскай неалітычнай культуры. *Г. В. Штыхаў.*

**«АРХЕОЛОГИЧЕСКИЕ ИЗВЕ́СТИЯ И ЗАМЕ́ТКИ»,** перыядычнае ілюстраванае выданне Маскоўскага археал. т-ва. Выходзіла ў 1893—1900 (7 нумароў) у Маскве на рус. мове. Змяшчалі артыкулы і паведамленні пра раскопкі, выпадковыя знаходкі, царкоўныя і бытавыя рукапісы, асвятлялі дзейнасць археал. з'ездаў, археал. ін-та, музеяў, археал. і інш. т-ваў, кароткія рэцэнзіі на айчынныя і замежныя археал. і этнаграфічныя выданні, спісы літаратуры. Найбольшая ўвага аддавалася даследаванням славянскіх старажытнасцей. Змясціла артыкулы пра тыпы радзіміцкіх пахаванняў і вынікі раскопак курганных могільнікаў на Гомельшчыне (У. Б. Антановіч), раскопкі дрыгавіцкіх курганоў у бас. Бярэзіны (У. З. Завітневіч), курганы Мінскай губ. (Г. Х. Татур), пра В. М. Цяпінскага як перакладчыка Евангелля на бел. мову (М. В. Доўнар-Запольскі). *У. У. Багамольнікаў.*

**«АРХЕОЛОГИ́ЧЕСКИЕ ОТКРЫ́ТИЯ»,** ілюстраваны зборнік паведамленняў пра археал. даследаванні ў 1965—86. Выдаваўся штогод у 1966—88 у Маскве. Разлічаны на археолагаў, этнографаў, гісторыкаў, краязнаўцаў і аматараў даўніны. Змяшчаў звесткі пра вынікі раскопак, што праводзіліся на працягу палявога сезона на тэр. СССР і пра даследаванні сав. археал. экспедыцый за мяжой, характарыстыкі вывучаемых помнікаў. Колькасць артыкулаў пра археал. даследаванні на Беларусі павялічвалася з 3 на пачатку выдання да 31 у 1988 (пра помнікі каменнага, бронзавага і жал. вякоў, раскопкі Полацка, Віцебска, Мінска, Брэста, Заслаўя і інш.). *Г. В. Штыхаў.*

**«АРХИТЕКТУ́РНОЕ НАСЛЕДСТВО»,** перыядычны штогодні зборнік артыкулаў па архітэктуры народаў СССР. Выдаецца Цэнтр. НДІ тэорыі і гісторыі архітэктуры з 1951 у Маскве на рус. мове. Да 1990 выйшла 37 выпускаў. Друкуе новыя матэрыялы пра творчыя метады і тэарэтычныя погляды дойлідаў мінулага, праблемы горадабудаўніцтва, праектавання, нар. дойлідства, архіт. адукацыі, пра асобныя помнікі, архіт. ансамблі, комплексы і інш. на падставе натурнага вывучэння помнікаў, архіўных крыніц, архіт.-археал. даследаванняў. Бел. дойлідству прысвечана больш за 30 прац, у т. л. пра Бельчыцкія пабудовы 12 ст. (М. М. Варонін), Полацкае дойлідства 11—12 ст., архітэктуру і жывапіс 11—13 ст. (І. М. Хозераў), горадабудаўніцтва Бабруйска, Віцебска, Гродна (У. А. Чантурыя, А. Д. Квітніцкая) і інш.

**АРХІТЭКТУ́РНА - АРХЕАЛАГІ́ЧНЫ КО́МПЛЕКС,** помнік гісторыі і культуры, які складаецца з адной ці некалькіх архіт. пабудоў, што знаходзяцца паблізу адна ад адной у межах культурнага пласта, які акружае іх. З'яўляецца адным з найб. складаных аб'ектаў археал. вывучэння, комплекснай крыніцай, якая дазваляе меркаваць пра вытворча-тэхнічны, ідэалагічны, мастацкі ўзровень пэўнага часу. Неад'емнай часткай папярэдніх даследаванняў і рэстаўрацыйных работ на помніку з'яўляюцца археал. раскопкі, мэта якіх — выяўленне месцазнаходжання стараж. будынка (калі яго сляды не прасочваюцца на паверхні), расчыстка рэшткаў, рэканструкцыя на іх аснове плана, фасадаў і ўсяго збудавання.

Культурны пласт, што запаўняе і акружае помнік, дае магчымасць вызначыць храналогію помніка, канструкцыйныя элементы (пілястры, калоны, профілі парталаў і інш.), першапачатковыя архіт.-маст. формы фасадаў (сапсаваныя, перапробленыя або знішчаныя), часткі будынка, якія зніклі (галерэі, бабінцы, перадбрамы, ганкі). Культурны пласт захоўвае шматлікія архіт. дэталі, якія даюць уяўленне пра сістэмы насцілу падлогі (пліткі), малыя формы, кампазіцыю будынка (кавалкі муроў з элементамі стараж. дэкору, тып цэглы, каflі, завесы, прабоі, замкі, клямкі, кавалкі аконных пралётаў, аконнае шкло, вітражы), добраўпарадкаванне тэр. комплексу. Гл. *Мінскі замак, Гродзенскі Стары замак, Полацкі Верхні замак.* *А. А. Трусаў.*

**АРЦЁМЕНКА** Іван Іванавіч (н. 15.9.1924, с. Гаўрылаўка Нававаранцоўскага р-на Херсонскай вобл.— 27.4.1989), украінскі археолаг. Чл.-кар. АН УССР (1982), д-р гіст. навук (1978). Скончыў Днепрапятроўскі ун-т (1948). У 1948—55 навук. супрацоўнік Гіст. музея ў Днепрапятроўску. У 1958—72 у Ін-це археалогіі АН СССР. З 1973 дырэктар, з 1987 заг. аддзела Ін-та археалогіі АН УССР. Вывучаў праблемы гісторыі насельніцтва Усх. Еўропы эпохі неаліту, меднага і бронзавага вякоў. Даследаваў у Верхнім Падняпроўі 8 паселішчаў, 51 курганны (114 пахаванняў) і 8 бескурганных (260 пахаванняў) могільнікаў *сярэднедняпроўскай культуры,* устанавіў 3 храналагічныя этапы яе развіцця: ранні (26—24 ст. да н. э.), сярэдні (23—18 ст. да н. э.), позні (17—15 ст. да н. э.), вызначыў матэ-

рыяльную і духоўную культуру насельніцтва, удакладніў яго арэал, генезіс і гіст. лёс плямён. Даказаў, што на тэр. Беларускага Падняпроўя плямёны гэтай культуры пранiклі на сярэднім этапе яе існавання ў 22—17 ст. да н. э. Абгрунтаваў неабходнасць вылучэння асобнай *сосніцкай культуры*. Дзярж. прэмія УССР 1980.

*Тв.:* Среднеднепровская культура // Сов. археология. 1963. № 2; Неолитические стоянки и курганы эпохи бронзы близ с. Ходосовичи Гомельской обл. БССР // Памятники каменного и бронзового веков Евразии. М., 1964; Племена Верхнего и Среднего Поднепровья в эпоху бронзы. М., 1967; Могильник среднеднепровской культуры в урочище Стрелица // Энеолит и бронзовый век Украины. Киев, 1976.

*Г. В. Штыхаў.*

**АРШÁНСКІ ЗÁМАК.** Існаваў у 14—17 ст. Спачатку драўляны замак размяшчаўся ў сутоках Дняпра і Аршыцы на месцы гарадзішча 11 ст. Муравaны 5-вежавы замак узводзіўся з 1398 да 1407 мясц. насельніцтвам пры ўдзеле майстра-муляра з Крулеўца (Кёнігсберга) на новай пляцоўцы, на Пн ад стараж. гарадзішча. Па прычынах эканам. і паліт. характару не да канца быў дабудаваны і ў 15 ст. завершаны з дрэва. Падмурак сцен і вежаў замка размяшчаўся на вапнавай падушцы, меў выш. каля 1 м і быў складзены з валуноў сярэдніх памераў. Сцены ўзведзены ў тэхніцы «паласатай муроўкі», дзе рады падагнаных валуноўураўнаваны радамі вялікапамерных цаглін. Сістэма цаглянай муроўкі «балтыйская» — чаргаванне 2 лажкоў і 1 тычка, што дазваляе датаваць А. з. канцом 14 — пач. 15 ст. і пацвярджае пісьмовыя сведчанні пра тагачасныя буд. работы. Паводле пісьмовых крыніц 16—17 ст., уваход у замак быў з зах. боку праз мост, перакінуты цераз роў, які жывіўся вадою р. Аршыцы. У 1560 драўляная замкавая брама на мураваным фундаменце была 2-ярусная з сістэмай запорных канструкцый. Унізе брамы стаяла вял. бронзавая гармата, другая невял. жалезная знаходзілася на 2-м паверсе. Брамны праём закрываўся «ўзводам» — пад'ёмным мостам. Праслам сцяны брама была звязана з вежай, што стаяла злева. Яна была 2-ярусная, напалавіну «мурам абмураваная». Тут стаяла невял. гармата. Далей мур ішоў на У і ўпіраўся ў трэцюю вежу, мураваную да ўзроўня 2-га яруса, вышэй яна была зроблена з дрэва. Ніжнюю частку займаў цэйхгауз, дзе знаходзіліся 33 гакаўніцы, 20 аркебузаў, 3 невял. жал. гарматы, старасвецкі жал. «кий ку стрелбе», запас гарматных ядраў, куль, свінец, порах, салетра, сера, кнаты і інш. амуніцыя. На беразе Дняпра размяшчалася чацвёртая 2-павярховая вежа з гарматай. Пад мураванай сцяной быў «тайник деревянный фундованный для воды у Днепр». Па кайме высокага правага берага Дняпра ішла сцяна да 5-й вежы. На версе прасел замкавых сцен, на кансольных бэльках была зроблена баявая галерэя — «обланки», дзе знаходзіліся гарматы, тут жа бліжэй да брамы вісеў «звон великий з клепалом», у які званілі «на трывогу». Унутры замка ўшчыльную да мураваных сцен прымыкала 101 драўляная гародня, дзе ў ваенны час мелі «клети на своё схованье часу


І. І. Арцёменка.


Аршанскі замак. Малюнак з карты 14 ст.

потребы» і свайго скарбу гараджане, шляхта і сяляне замкавай воласці. Перыметр мураванага замка складаў 354 м. У канцы 16 ст. А. з. яшчэ не быў дабудаваны. Маскоўскі дзяк Трыфан Карабейнікаў, праязджаючы ў студзені 1593 праз Оршу, адзначаў: «Городок Орша каменный, стоит на реке Непре на берегу с Литовской стороны, а верхней бой на стене и на башнях деревянной». У 1594 кароль Зыгмунт III Ваза абавязваў аршанцаў драўляныя «бланки на стене замковой от Иршицы оправлять и знову заробити, кгды опадуть». Замак даглядалі сяляне замкавай воласці, яны разам з гараджанамі рамантавалі мураваныя і драўляныя сцены, папраўлялі мост перад замкам і замкавы стаў. Паводле «Уставы повинностей» за 1560 мяшчане-аршанцы абавязваліся «в замку одну стену оправовати и перед замком мост будовати, стацею послам и гонцам давати, а подводные пенязи... давати и сторожу замковую полнити». Акрамя таго, унутры замка з боку Аршыцы яны «водлуг стародавнего звычаю» будавалі гародні, падтрымлівалі ў добрым стане тайнік да вады, капалі яму пад пад'ёмным мостам-узводам, давалі 2 начных вартаўнікоў і «воротного меркуля водлуг старого звычаю». Як і ў кожным парубежным замку, мясцовыя пушкары займаліся рамонтам і вырабам ручной агнястрэльнай зброі і пораху. Пасля 1620 А. з. быў цалкам дабудаваны з каменю («камень дич до зубцов»). Зубцы, відаць, былі з цэглы. Вышыня замкавых муроў да зубцоў была неаднолькавай: з «прыступнага» (небяспечнага) боку — з Пн і З да 8 м, з бакоў, абароненых рэкамі і высокім берагам,— 5,3 м, шырынёй сцяна замка была «в сажень» (каля 2 м). А. з. шматразоў падвяргаўся аблогам. У 1500 яго захапілі і 3 гады ўтрымлівалі войскі Рус. дзяржавы. У 1507 і 1519 аблогі паўтарыліся. Доўгую аблогу замак пасняхова вытрымаў у 1562—64. Восенню 1654 замак, які незадоўга да гэтага перажыў 2 пажары, быў узяты рус. войскамі. У снежні 1654 войска Радзівіла аваладала А. з. і ўтрымлівала яго да 11.5.1655. Пазней рус. стольнік З. Ф. Лявонцьеў зноў заняў яго і ўтрымліваў да канца руска-польскай вайны 1654—67. Пасля гэтых падзей замак прыйшоў у поўны заняпад і пазней ужо не выконваў сваіх абарончых функцый.

*Літ.:* 214, 316, 449, 925.

*М. А. Ткачоў.*

**АРШÁНСКІ КУЦÉІНСКІ БОГАЯЎЛÉНСКІ МАНАСТЫ́Р,** помнік архітэктуры бел. барока 17 ст. Заснаваны ў 1623 як праваслаўны мужчынскі манастыр. Манастырскі комплекс складаўся з гал. Богаяўленскага сабора (драўляны, будаваўся ў 1623—35, згарэў у 1885), мураванай Святадухаўскай царквы, званіцы, жылых і гасп. пабудоў, быў абнесены агароджай з бутавага каменю і цэглы. Захаваліся Святадухаўская царква, 2-павярховы манастырскі корпус і частка агароджы.

На тэр. манастырскага двара ў 1987—88 В. М. Ляўко і І. М. Чарняўскі праводзілі архіт.-археал. даследаванні. Выяўлены культурныя адклады магутнасцю 0,6—0,8 м з 2 стратыграфічных пластоў. Ніжні пласт фрагментарна прасочваецца па ўсёй даследаванай плошчы (больш за 100 м²), яго матэрыялы адносяцца да 12 ст. Верхні пласт утрымлівае знаходкі не раней канца

16—18 ст. Выяўлены: яма, у якой знойдзена кафля 1-й пал. 17 ст. (гаршковая з квадратным і круглым вусцем, прамавугольная з раслінным арнаментам, гербамі, геральдычнымі матывамі і інш.), развал горна для абпальвання дахоўкі (каваколле запоўнена бракаванай прадукцыяй), вял. колькасць гліняннага посуду 17 ст., шкляныя вырабы.

Святадухаўская царква ўзведзена ў 1-й пал. 17 ст. Асноўны яе аб'ём прамавугольны ў плане. Да яго далучаны 5-гранная апсіда і квадратная ў плане 2-ярусная вежа-званіца, з паўн. боку — невял. рызніца. Першапачатковыя вальмавыя дахі з галоўкамі, якія завяршалі аб'ём царквы, не захаваліся. Сцены фасадаў стрымана дэкарыраваны лапаткамі і ўвянчаны прафіляваным карнізам. Паўцыркульныя аконныя праёмы размешчаны на гранях апсіды і бакавых фасадах, ярусы абрамлены прафіляванымі ліштвамі з ляпнымі дэталямі. Інтэр'ер царквы сфарміраваны прамавугольным асн. аб'ёмам і вял. 5-граннай апсідай. Не захаваліся скляпенні, 6-ярусны разны іканастас і фрэскі работы майстра Рыгора. Манастырскі будынак уяўляе сабой выцягнутую па падоўжнай восі кампазіцыю, якая складалася з 2 прамавугольных у плане аб'ёмаў: заходні — духоўнае вучылішча і вял. трапезная, усходні — келлі галерэйнага тыпу. Цагляны 1-ы паверх рэканструяваны; драўляны 2-і паверх амаль поўнасцю перабудаваны. У першапачатковым выглядзе захаваліся толькі мураваная тарцовая сцяна з плоскімі паўцыркульнымі нішамі і частка агароджа.

*Літ.:* 211, 304, 367, 606, 990.

*Т. В. Габрусь, В. М. Ляўко.*



Кафля з Аршанскага Куцеінскага Богаяўленскага манастыра.



Керамічныя вырабы з Аршанскага Куцеінскага Богаяўленскага манастыра.

**АРША́НСКІ МУЗЕ́Й ГІСТО́РЫІ І КУЛЬТУ́РЫ ГО́РАДА.** Адкрыты ў 1990. У археал. калекцыі больш за 2 тыс. адзінак (1991) з раскопак на аршанскім гарадзішчы (гл. ў арт. *Орша*), на тэр. *Аршанскага Куцеінскага Богаяўленскага манастыра*, езуіцкага калегіума, з *Аршанскіх стаянак* і інш. У экспазіцыі крамянёвыя прылады працы, каменныя клінападобныя сякеры, долата, зерняцёрка, наканечнік кап'я, тачыльны брусок, праслíцы, касцяныя праколкі і гарпун, двухбаковы грэбень, жал. нажы (адзін з бронзавай накладкай), сякеры, падковы (10—18 ст.), кераміка 16—17 ст. (гаршкі, макотры, міскі, збан), упрыгожанні 11—14 ст. (фрагменты шкляных бранзалетаў, пацеркі). У нумізматычнай калекцыі больш за 200 адзінак, у т. л. каля 100 манет Рас. дзяржавы, у асн. 17—19 ст., таксама манеты Рэчы Паспалітай, Германіі.

**АРША́НСКІЯ ГАРАДСКІ́Я ЎМАЦАВА́ННІ,** комплекс абарончых збудаванняў у Оршы ў 14—18 ст. Цэнтрам абароны горада ў 14 — пач. 15 ст. з'яўляўся былы старажытны дзядзінец у сутоках Аршыцы і Дняпра. У 1-й пал. 14 ст. для расшырэння пляцоўкі горада валы дзядзінца былі скапаны, а па краях павялічанай пляцоўкі насыпаны новы земляны вал, узведзены драўляныя абарончыя сцены, вежы і ўязная брама. Пасля пабудовы ў пач. 15 ст. *Аршанскага замка* туды перамясціўся цэнтр абароны горада. У пач. 16 ст. закончылася фарміраванне гандлёва-рамесніцкага пасада, які займаў участак, абмежаваны Дняпром і Аршыцай на Пн і З ад замка. Для яго абароны ўтвораны новы пояс гар. умацаванняў — «острог посадский», які складаўся з землянога вала і драўляных абарончых збудаванняў на ім — гародняў і вежаў. Уезд і выезд адбываўся праз 3 гар. брамы: Д н я п р о ў с к у ю, што выводзіла да паромнай пераправы цераз Дняпро на яго левы бераг і далей на Горы і Мсціслаў; М а г і л ё ў с к у ю, якая адкрывала дарогу на мост цераз Аршыцу і далей па правым беразе Дняпра на Копысь, Друцк, Шклоў, Магілёў; В і ц е б с к у ю, якая з зах. часткі горада адкрывала шлях на Віцебск, Полацк і ў Прыбалтыку. Перад валам з паўн. і зах. бакоў знаходзіўся абарончы роў, які ўпіраўся канцамі ў Дняпро і Аршыцу. Унутры горада і на подступах да яго, асабліва на падыходзе да мураванага замка, на скрыжаваннях гал. магістралей размяшчаліся шматлікія мураваныя храмы, манастыры і кляштары бернардзінцаў, францысканцаў, кармелітаў, базыльян, дамініканцаў, бенедыкцінцаў, брыгітак, марыявітаў і уніятаў. Яны фактычна з'яўляліся дадатковым поясам абароны Оршы 16—18 ст. Пабудова, догляд і рамонт А. г. у. з'яўляліся абавязкам гараджан, аднак стратэгічная важнасць горада прымушала вялікакняжацкую і каралеўскую ўлады накіроўваць у Оршу з вёсак і мястэчак Зах. Беларусі і Магілёўскага Падняпроўя дадатковую рабочую сілу. Паводле спец. «Уставы повинностей» 1594, дадзенай аршанцам каралём Рэчы Паспалітай Зыгмунтам III Вазай, усё дарослае мужчынскае насельніцтва аб'ядноўвалася ў ваенна-падатковыя падраздзяленні — 4 сотні на чале з сотнікамі. Дакладна рэгламентаваліся ваенныя абавязкі гараджан: «...вси и кождый засобна, для обороны в час небеспечности... от неприятеля господарского, стрельбу вшелякую, то есть гаковницы, ручницы и сагадайки и иную оборону, то есть рогатину и што иного ку той обороне належить, у домех своих мети, а без обороны таковое в дому своим не мешкать». У снежні 1620 Зыгмунт III падпісаў прывілей г. Оршы на магдэбургскае права, у якім яшчэ раз падкрэсліваліся абавязкі гараджан па абароне горада і догляду за абарончымі ўмацаваннямі: будаваць «острог также альбо вал около места и кгды того потреба укажеть под час небеспечности для обороны». У сувязі з пабудовай ратушы з замка перанеслі звон, у які званілі «под час великой небеспечности». У гар. арсенале захоўваліся артылерыя, якую абслугоўвалі пушкары на ўмовах валодання зямельнымі надзеламі. Паводле магдэбургскага прывілея, кожны гараджанін (старажыл і навапасяленец) прыносіў у ратушы прысягу свайму гораду («прикладом места Киевского»), жыхары абавязваліся выконваць неабходныя павіннасці, асабліва па догляду за ўмацаваннямі і ўдзеле ў абароне горада пад час вайны. Абавязковая прысяга выхоўвала пачуццё патрыятызму, грамадзянскасці, праводзілася «...для лепшего варунку, певности, беспечности и перестероги и для поваги того места Оршанского». Як сведчаць статуты кравецкага, пастрыгацкага і кушнерскага рамесніцкіх цэхаў за 1612 і 1632, члены іх мелі ваенную амуніцыю, харугву і герб. У рамеснікаў, не за-

пісаных ні ў адзін з цэхаў, тавары рэквізаваліся, прадаваліся, а грошы выкарыстоўваліся на закупку зброі і ваеннага рыштунку. За час існавання А. г. ў. зведалі шмат войнаў і аблог. У 1397 горад вытрымаў аблогу войск смаленскага кн. Святаслава. У 1401 у час аблогі кн. Свідрыгайлы «оршане затворилися в городе и боронилися два дни и потом подали город», каб пазбегнуць разбурэння. У 1500—64 А. г. ў. перажылі 4 аблогі рус. войск, а ў час рускапольскай вайны 1654—67 горад тройчы пераходзіў з рук у рукі і быў моцна разбураны. Паслы Рэчы Паспалітай і інш. краін, праязджаючы ў 1660—70-я г. праз Оршу, неаднаразова адзначалі, што горад і комплекс абарончых збудаванняў «да спусташэння яго масквіцянамі, як паказваюць руіны, быў харошы і вялікі». З-за разбурэнняў сейм Рэчы Паспалітай вызваліў горад ад усіх падаткаў. Паўночная вайна 1700—21 давяршыла разбурэнне А. г. ў., горад і абарончыя збудаванні былі спалены калмыцкім атрадам рус. войск Пятра I, пасля чаго горад быў не ў станеаднавіцца. Калі ў сярэдзіне 17 ст. ў ім жыло 5 тыс. чал., то ў 1772 у Оршы налічвалася толькі 793 чал. Дакументы канца 18 ст. называюць вал, 3 гар. брамы — Дняпроўскую, Віцебскую і Магілёўскую, але яны сведчылі не столькі аб магутнасці тагачасных А. г. у., колькі аб сіле, гіст. традыцый мясц. ваенна-інжынернага мастацтва.

*Літ.:* 16, 593, 746, 842, 848.

*М. А. Ткачоў.*

**АРШАНСКІЯ КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ,** 2 курганныя могільнікі каля г. Оршы.

Могільнік-1. За 2,5 км ад Аршанскага гарадзішча (гл. ў арт. *Орша*), на левым беразе Дняпра, ва урочышчы Дубкі. 30 курганоў круглай і авальнай форм выш. 0,5—1 м, дыям. 6—8 м. У 1928 А. М. Ляўданскі раскапаў 3 насыпы. Пахавальны абрад — трупапалажэнне (у адным галавой на У без рэчаў). Глыбіня ям да 1 м. У насыпах на розных узроўнях ляжалі камяні, у адным трапляліся вугалькі.

Могільнік-2. За 4,5 км ад Аршанскага гарадзішча, на левым беразе Аршыцы, каля былой в. Гразівец. Было 169 круглых курганоў выш. 0,5—2 м, дыям. 6—8 м. У 1889 М. Е. Брандэнбург раскапаў 3 курганы, у 1928 Ляўданскі і С. А. Дубінскі — 5. Пахавальны абрад — трупаспаленне (1) і трупапалажэнне на грунце ці ў грунтовых ямах глыб. да 1 м. У 6 курганах выяўлена 7 шкілетаў, якія ляжалі галавой на З.

Знойдзены бронзавая спіралька, падвеска-лыжачка, касцяное арнаментаванае дзяржанне нажа, 2 падвескі-конікі, бронзавая спіралька з вушкам, лунніца, жал. абручы ад вядра, цвікі, пацеркі, гузік, нож, шыфернае прасліца, абломкі гаршкоў. Могільнікі звязаны з раннім перыядам існавання Аршанскага гарадзішча.

Датуецца 11—12 ст.

*Літ.:* 153, 713. *Г. В. Штыхаў.*

**АРШАНСКІЯ СТАЯНКІ,** археал. помнікі каменнага веку каля г. Оршы.

Стаянка-1 *грэнскай культуры.* За 0,5 км на Пн ад горада, на правым беразе Дняпра, на вышыні 25 м над узроўнем вады. Пл. каля 2 тыс. м². Адкрыў у 1978 і абследаваў у 1980—87 300 м² плошчы




Крамянёвыя наканечнік стралы (1), скрабок (2), разец (3) са стаянкі-1 Аршанскіх стаянак.

У. П. Ксяндзоў. Культурны пласт разбураны ворывам.

Знойдзена больш за 3 тыс. крамянёвых прылад працы, у т. л. сіметрычны наканечнік стралы, скрабкі, сярэдневуглавыя і бакавыя разцы, праколкі, скоблі, зубчастыя прылады. Вялікая колькасць крамянёў сведчыць пра існаванне тут майстэрні.

Датуецца 8—7-м тысячагоддзем да н. э.

Стаянка-2 *верхнедняпроўскай культуры.* Побач з ускраінай горада, на першай надпойменнай тэрасе левага берага Дняпра, на выш. 8—9 м над узроўнем вады. Пляцоўка памерам 30×70 м. Адкрыў і даследаваў 168 м² плошчы ў 1988 Ксяндзоў. Культурны пласт 0,2—0,5 м.

Знойдзены тронкавы наканечнік стралы, праколкі, скрабкі, скоблі, вуглавыя разцы, укладышы, двухбаковаапрацаваныя сякеры, адбойнік, фрагмент ляпнога посуду, арнаментаваны адбіткам палачкі.

Датуецца 3-м тысячагоддзем да н. э.

*Літ.:* 615. *У. П. Ксяндзоў.*

**АРЭНСБУРГСКАЯ КУЛЬТУРА,** археалагічная культура познапалеалітычных плямён, якія ў 10—9-м тысячагоддзях да н. э. насялялі Пн сучаснай тэр. Германіі. Назву атрымала ад мясцовасці Арэнсбург у ФРГ, дзе выяўлены рэшткі познапалеалітычных і мезалітычных стаянак. Паходзіць, магчыма, ад культуры бромелінгбі (паўд. Прыбалтыка). Асобныя групы насельніцтва А. к. пранікалі на тэр. сучаснай Еўрапейскай часткі СССР і, як мяркуюць, далі пачатак *грэнскай культуры.*




Наканечнікі стрэл (1—18), скрабкі (19—21, 32—35, 38), разцы (22—24, 29, 30), нажы (25—28, 31, 36), вастрыё (37) арэнсбургскай культуры. Паводле А. Руста.

Насельніцтва жыло на паселішчах — кароткачасовых стаянках з наземнымі жытламі круглаватай, авальнай ці трохвугольнай формы. Займалася паляваннем на паўн. аленя. Большасць прылад працы выраблялася з адшчэпаў.

Для іх характэрны пласціны з натуральнай ці рэтушаванай асновай і скошаным крутой рэтушшу канцом (вастрыі тыпу Цонхофен), тронкавыя наканечнікі стрэл з пласцін і пласцiністых адшчэпаў (тронкі іх крутой рэтушшу выдзелены выемкамі і зрэзаным наўскос пяром), дугападобныя, укарочаныя скрабкі на пласцінах і адшчэпах. Выкарыстоўвалі сярэдзінныя, бакавыя, вуглавыя разцы, скоблі, праколкі, пласціны з рэтушаваным прамым ці скошаным канцом, нуклеусы з дзвюма плоскімі ўдарнымі пляцоўкамі.

*Літ.:* 611. *У. П. Ксяндзоў.*

**АРЭШКАВІЧЫ,** археал. помнікі эпохі Кіеўскай Русі каля в. Арэшкавічы Бярэзінскага р-на.

Гарадзішча. За 3 км на ПдУ ад вёскі, ва ўрочышчы Гарады. Пляцоўка памерам 37×61 м, выш. 18 м, умацавана 2 радамі валоў. Выявіў і даследаваў у 1929 А. Рынейскі. У шурфе выяўлена кераміка, вугалі, шлакі. Шчупам выяўлена каменная кладка.

Курганны могільнік. За 1 км на Пд ад вёскі, на правым беразе р. Бярэзіна, абапал дарогі ў в. Жукавец. 45 насыпаў выш. 0,9—3,5 м, дыям. 18—20 м. Адкрыў і даследаваў 3 насыпы ў 1931 А. М. Ляўданскі, абследавала ў 1979 Т. С. Бубенька. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў грунтавых ямах галавой на З, нябожчыкі абкладзены плахамі і дошкамі. Знойдзены рэшткі галаўнога венчыка з тонкай тканіны з бронзавымі залачонымі бляшкамі.

Курган. За 3 км на Пд ад вёскі, за 1,5 км ад левага берага р. Бярэзіна, ва ўрочышчы Гарады. Выш. 1,8—1,9 м, дыям. 12 м. Адкрыла і абследавала ў 1979 Бубенька.

*Літ.:* 718.

**АСАВЕЦ,** археал. помнікі эпохі неаліту і бронзавага веку на ПдУ ад в. Асавец Бешанковіцкага р-на.

Стаянка-1. За 2 км на Пд ад вёскі, на левым беразе р. Крывінка, за паўн. краі Крывінскага тарфяніка. Выявіў і даследаваў у 1934 К. М. Палікарповіч. Культурны пласт укрыты слоем торфу ў 1,5 м. Знойдзены прылады працы і кераміка, характэрная для *паўночнабеларускай культуры.* Датуецца 1-й пал. 2-га тысячагоддзя да н. э.

Стаянка-2 позняга неаліту і ранняга бронзавага веку. За 1,5 км за ПдУ ад вёскі, ва ўрочышчы Дражня, на паўн. ускраіне асушанага тарфяніка (тэр. помніка перарэзана выраўнаваным рэчышчам Крывінкі і водаадводамі-каналамі). Пляцоўка стаянкі памерам 80×250 м размяшчалася на нізкім пясчана-жвіровым берагавым выступе ў затоку пасляледавіковага возера. У выніку паступовага ўвільгатнення клімату і паднящця ўзроўню вады ў возеры выступ стаў непрыгодным для жыцця на ім, да сярэдзіны 2-га тысячагоддзя да н. э. людзі пакінулі паселішча. Выявіў у 1966 і даследаваў у 1960—80-я г. Чарняўскі, раскапана 300 м². Культурны пласт да 1,3 м, перакрыты торфам. Пры раскопках выяўлены рэшткі жытлаў слупавой канструкцыі, аснову якіх складаў шэраг вертыкальна ўбітых у мацярык завостраных слупоў-сох з развілкамі ўверсе, якія падтрымлівалі гарызантальную кладзь у вільчыку. Двухсхільны дах, што адначасова ўтвараў і сцены, быў з нахільна ўвагнаных у зямлю завостраных жэрдак і пакрыцця з трыснягу і кары, якое дадаткова мацавалася зверху такімі ж жэрдкамі. У сярэдзіне жытлаў размяшчаліся адкрытыя агнішчы на пясчанай падсыпцы, падасланай пластамі кары. За межамі жытлаў выяўлены меншыя па памерах агнішчы, месцы па апрацоўцы дрэва і вырабу гліянага посуду. Каля самай асновы культурнага пласта знойдзена некалькі апрацаваных касцей, абломкі гліняных (з дамешкай тоўчаных ракавін) гладкасценных гаршкоў, упрыгожаных разрэджаным арнаментам з насечак, наколаў, грабеньчатых адбіткаў, ямак. Знаходкі адносяцца да мясцовага варыянта *нарвенскай культуры.* Вышэй у пласце залягалі матэрыялы паўночнабеларускай культуры, у т. л. фрагменты гліняных (з дамешкамі тоўчаных ракавін і жарствы) вастрадоннапрыкругленых і пласкадонных гаршкоў, кубкаў, місак розных памераў з заштрыхаванымі паверхнямі сценак.

Арнамент размеркаваны ў асноўным па ўсёй паверхні шчыльнымі ўзорамі з гарызантальных паясоў насечак, грабеньчатых адбіткаў, ямкавых паглыбленняў і наколаў. Пласкадонны посуд з дамешкамі жарствы ў гліне арнаментаваны пераважна ў верхняй частцы адбіткамі шнура і лінейнага штампа. Знойдзены крамянёвыя наканечнікі стрэл (лістападобныя, рамбічныя і трохвугольныя), наканечнікі коп'яў, скрабкі, нажы, разцы, праколкі, клінападобныя сякеры, каменныя свідраваныя сякеры і матыкі, а таксама касцяныя і рагавыя пераважна плоскадзяржанневыя наканечнікі стрэл, кінжалы, праколкі, іголкі, сякеры, цёслы, долаты, нажы з іклаў дзіка, гарпуны і рыбалоўчыя кручкі, лыжкі, інструменты для лепкі і арнаментавання посуду, рэшткі драўляных чаўноў і вёслаў, місак, дошак, лука, стрэл, коп'яў і інш. Выяўлены ўпрыгожанні: падвескі (бурштынавыя, з прасвідраваных зубоў і косці), гузікі, трубачкі, кольцы, а таксама творы першабытнага мастацтва — драўляныя і касцяныя мініяцюрныя фігуркі людзей, жывёл, птушак, гравіраваныя выявы людзей на сценках гаршкоў і інш.



Агульны выгляд стаянкі-2 **Асавец.**



Касцяныя гарпуны і рыбалоўны кручок канца 3 — пач. 2-га тысячагоддзя да н. э. са стаянкі-2 **Асавец.**



Позненеалітычны гаршчок са стаянкі-2 **Асавец.**

Датуецца канцом 3-га — 1-й пал. 2-га тысячагоддзя да н. э.

Стаянка-3 бронзавага веку. За 1 км на ПдУ ад вёскі, на пясчаным узгорку Аксінаў Груд. Выявіў і даследаваў у 1968 Чарняўскі. На паверхні стаянкі знойдзены крамянёвыя прылады працы і абломкі посуду сярэднябронзавага часу. На ўсх. краі стаянкі ў торфе выяўлены рэшткі драўляных канструкцый 2-й пал. 2-га тысячагоддзя да н. э.

Стаянка-4 ранняга неаліту. За 1,8 км на ПдУ ад вёскі, ва ўрочышчы Бурскавішча, на зах. схіле ўзгорка (значна пашкоджана кар'ерам). Выявіў у 1971 і даследаваў у 1970—80 Чарняўскі, раскапана 176 м². Знойдзены крамянёвыя тронкавыя і лістападобныя наканечнікі стрэл,

высокія канцавыя скрабкі, касцяныя праколкі, верацёнападобныя і падтрохвугольнага сячэння наканечнікі стрэл і прылады, якімі секлі. Кераміка прадстаўлена фрагментамі вастрадонных гаршкоў з дамешкамі рэштках раслін і тоўчаных ракавін у гліне, арнаментаваных шыраказубым штампам пад краем венчыка адбіткамі грэбеня, наколамі і насечкамі, поясам з глыбокіх ямак. Датуецца 4-м тысячагоддзем да н. э.

У наваколлі вёскі ёсць некалькі ментам. Сярод знаходак асабліва вылучаюцца выразаныя з дрэва, рогу і зубоў жывёлін антрапаморфныя і зааморфныя выявы невял. памераў (у сярэднім 5—10 см): статуэткі лася, змяі, птушыных галовак і вадаплаўных птушак, драўляная галоўка мужчыны з выразна мадэліраваным тварам і старанна выразаная з рога галоўка велікавокага барадатага мужчыны еўрапеоіднага аблічча. Знойдзены таксама невял. абломкі ад розных статуэтак. Асавецкія знаходкі — найб. яркі прыклад першабытнага мастацтва каменнага і бронзавага вякоў на тэр. Беларусі. Іх бліжэйшыя аналагі трапляюцца на помніках таго самага часу ў паўд.-ўсх. Прыбалтыцы. Матэрыялы зберагаюцца ў *Інстытуце гісторыі* АН Беларусі, *Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі* і *Музеі старажытнабеларускай культуры* Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі.

*Літ.*: 232, 847, 1286а, 1287.

*М. М. Чарняўскі.*

**АСАРЭ́ВІЧЫ,** гарадзішча і бескурганны могільнік (6—4 ст. да н. э.) *мілаградскай культуры* каля в. Асарэвічы Брагінскага р-на. За 3,5 км на Пд ад вёскі. Адкрыў у 1929 І. Х. Юшчанка, даследавала ў 1955—57





**Асавецкія творы першабытнага мастацтва:** драўляная фігурка чалавека, касцяная фігурка лася і галоўка птушкі са стаянкі-2 Асавец.

помнікаў каменнага і бронзавага вякоў.

*Літ.*: 119, 1303, 1304.

*М. М. Чарняўскі.*

**АСАВЕ́ЦКІЯ ТВО́РЫ ПЕРША-БЫ́ТНАГА МАСТА́ЦТВА.** У час раскопак на паселішчы позняга неаліту і ранняга бронзавага веку *Асавец* выяўлена шмат твораў першабытнага дэкаратыўна-прыкладнога і выяўленчага мастацтва. Кераміка прадстаўлена разнастайнымі вастрадоннымі і пласкадоннымі пасудзінамі, арнаментаванымі гарызантальнымі паясамі насечак, нарэзаў, наколаў, ямкавых паглыбленняў, адбіткаў грэбеня, тарца пласцінкі і шнура; гарызантальныя паясы часам дапаўняліся ромбамі, дугамі, прамавугольнікамі, ялінкамі. На адным з гаршкоў ёсць стылізаваныя гравіраваныя выявы чалавека. Упрыгожанні складаюцца са шматлікіх бурштынавых падвесак і прасвідраваных зубоў жывёл, трубчастых пацерак, бурштынавых гузікаў і кольцаў, фігурных касцяных накладак, аздобленых наразным арна-



Гліняная праслiца і абломак скіфскай стралы з гарадзішча **Асарэвічы.**

В. М. Мельнікоўская, абследавалі ў 1956 Л. Д. Побаль, у 1975 В. Е. Собаль, у 1985 М. І. Лашанкоў.

Гарадзішча. Размяшчаецца ва ўрочышчы Гарадок, на дзюннай градзе (выш. 10 м над поймай), з 3 бакоў абмежаванай р. Лебядзёўка. Пляцоўка прамавугольная, памерам 120×70 м, па перыметры ўмацавана валам шыр. у аснове 20—22 м, выш. з боку пляцоўкі 0,7 м. Культурны пласт 0,1 м, захаваўся часткова.

У выдме паўд. часткі вала выяўлены абвугленыя бярвёны, што ўтваралі вугал драўлянай канструкцыі ў насыпе. Знойдзены фрагменты глінянага ляпнога посуду, шлакі і інш.

Бескурганны могільнік. За валам гарадзішча, на пакатым схіле ўзвышша. Пл. 7 тыс. м$^2$, раскапана 156 м$^2$. Пахавальны абрад — трупаспаленне. Знойдзены вырабы з жалеза, бронзы, шкла, гліны, фрагменты керамікі, упрыгожанай грабеньчатым штампам і шнуравымі адбіткамі, кальцыніраваныя косці, косці свойскіх жывёл.

Сярод знаходак на абодвух помніках наканечнікі стрэл (больш за 20 бронзавых 3-гранных і 3-лопасцевых, жал. пласцiністыя трохвугольныя, ромба-, трапеца- і лістападобныя), нож з гарбатай спінкай, брытва, шыла, каменная шліфаваная сякера, жал. скіфскі акінак з загнутымі ўгару канцамі наверша, меч з кальцавым навершам, вял. бронзавы кінжал, двухшыпныя восці, бронзавыя нажны бранзалет, кольцы, посахападобная шпілька, трапецападобная арнаментаваная падвеска, каля 50 шкляных і паставых пацерак жоўтага, блакітнага, светла-зялёнага і сіняга колеру, 5 гліняных праслiц (3 пасудападобнай, 2 біканічнай формы), біканічнае арнаментаванае праслiца (у сярэдняй частцы 3 кальцавыя паглыбленні, вышэй — 4-канцавая зорка з заштрыхаванымі сегментамі). Значную частку знаходак складаюць фрагменты гаршкоў (з яйцападобным тулавам, пазначанай шыйкай, адагнутым вонкі венчыкам і ўплошчаным дном; з шарападобным тулавам і вертыкальным венчыкам; з акруглабокім выцягнутым па вертыкалі тулавам, закругленым дном і адагнутым вонкі венчыкам). Кераміка арнаментавана ямкавымі ўціскannямі па шыйцы, «жамчужынамі» і інш.

*Літ.:* 772, 1390. *М. І. Лашанкоў.*

**АСВЕЙСКІЯ ГАРАДЗІШЧЫ,** група гарадзішчаў («гарадкоў») усх. балтаў у Верхнядзвінскім р-не каля вёсак Абрамава, Латыгава (не існуе), Дубровы, Урагава, пас. Чапаеўскага і на паўд. беразе вял. в-ва Асвейскага воз. Даследавалі ў 1926 В. Глацёнак, у 1949 А. Р. Мітрафанаў, у 1965—66 К. П. Шут, абследаваў у 1979 В. І. Шадыра. Гарадзішчы ўзніклі паступова. Найб. старажытныя Урагава і Дубровы паявіліся ў 7—6 ст. да н. э., на востраве возера — у 3 ст. н. э., каля в. *Абрамава,* Латыгава і пас. Чапаеўскага — у канцы 1-га тысячагоддзя да н. э. На ранніх гарадзішчах выяўлены рэчы пераважна з косці (праколкі, шылы, шпількі, іголкі, невял. долаты) і каменю (сякеры, долаты), на больш позніх — пераважаюць жал. рэчы (сярпы, нажы, сякеры, шылы, іголкі і інш.), выяўлены сляды мясцовай апрацоўкі жалеза (шлакі, крыцы, абломкі домніц). Знойдзена гладкасценная кераміка ў форме слоіка або вядра, арнаментаваная ямачнымі ўціскannямі, адтулінамі і лініямі ў верхняй частцы посуду. Асн. колькасць керамікі належыць да *днепра-дзвінскай культуры* зах. тыпу з уплывам Прыбалтыкі і Пскоўшчыны, невял. частка — да банцараўскай культуры. Асн. заняткі насельніцтва — жывёлагадоўля, земляробства, паляванне, рыбалоўства, апрацоўка дрэва, косці, жалеза, ткацтва і ганчарства.

*Літ.:* 236, 1313, 1364, 1368.
*В. І. Шадыра, К. П. Шут.*

**АСІГНАЦЫІ** (франц. l'assignat ад le signe знак), рускія папяровыя грошы, упершыню выпушчаныя ў 1769 пры Екацярыне II. Эмісію і абмен металічных грошай на А. праводзілі банкі, створаныя ў Маскве і Санкт-Пецярбургу, у 1786 аб'яднаныя ў адзіны Асігнацыйны банк. Выпускаліся ў 1769—86 наміналам у 25, 50, 75, 100 руб., у 1786—1819—5, 10, 25, 50, 100, у 1820—43 — 5, 10, 25, 50, 100, 200. У 1772—86 існавалі канторы, якія разменьвалі А. на медныя грошы.

Павелічэнне эмісіі А. выклікала іх абясцэньванне ў параўнанні з сярэбранымі манетамі (у 1786 у абароце 50 млн. руб., у 1818—836 млн. руб.). Размен на сярэбраную манету праводзіўся ў суадносінах 1:1, у 1810 у сувязі з падзеннем курсу А. адпавядала 25 $\frac{2}{5}$ капеек, з 1814 — 20 капейкам. У 1843 заменены дзярж. крэдытнымі білетамі. З 1.1.1849 анулявaны. На Беларусі абарачаліся з канца 18 ст.

*Літ.:* 1522. *Ш. І. Бекцінееў.*



Да арт. **Асвейскія гарадзішчы.** Прылады працы і ўпрыгожанні з гарадзішча Урагава (Верхнядзвінскі р-н).

**АСМАК** (ад старабел. *осем* — восем), тэрмін, што ўжываўся на Беларусі для абазначэння *гроша польскага* (разменьваўся на 8 *пенязяў).* Найб. ранняе пісьмовае ўпамінанне адносіцца да 7.6.1541 (Гродна). З ужытку выйшаў у 1-й пал. 18 ст.

**АСПРА,** а с п а, а с п р а т а, а с п р о л я (ад грэч. asprоs белы), назва дробнай сярэбранай манеты ў Вял. кн. Літоўскім, якая зрэдку сустракаецца ў пісьмовых крыніцах 16 ст. Манета Трапезундскай імперыі (1204—1461), генуэзскіх калоній Паўн. Прычарнамор'я, рыцарскага ордэна гаспітальераў, княства Малдова, балканскіх уладанняў Асманскай імперыі пад назвай аспр. Курс А. і сінанімічнае ўжыванне дазваляюць атаясамліваць яго з *грошам.*

**АСТРЭЯ,** старажытны горад, які ўпамінаецца ў «Спісе рускіх гарадоў далёкіх і блізкіх» (канец 14 — пач. 15 ст.) сярод літоўскіх гарадоў на тэр. Беларусі. Гісторык М. М. Ціхаміраў выказаў меркаванне, што горад размяшчаўся ў паўн. частцы Полацкай зямлі толькі таму, што там ёсць вёска Астрэя. Але ў наваколлі вёскі няма гарадзішча, якое можна было б лічыць рэшткамі старажытнарус. горада. Археолаг В. В. Сядоў атаясамлівае А. з г. п. Астрына Шчучынскага р-на, за 1,5—2 км на ПдУ ад якога ёсць гарадзішча.

Яно размешчана за 800 м на З ад в. Кульбачына, на схіле пакатага берага р. Астрынкі і прымыкае да забалочанай поймы. Пляцоўка авальная памерам 75×55 м, умацавана валам выш. з Пн, Пд і У 3—3,5 м, з захаду, дзе знаходзіўся ўезд, 1,5—2 м, шыр. вала ў аснове 12 м. З паўд. боку прасочваюцца сляды рова. Выявіў у 1968 Сядоў, абследаваў у 1975 М. А. Ткачоў, даследаваў у 1989 С. А. Піваварчык (зрабіў прарэзку вала). Культурны пласт у паўн. і зах. частках пляцоўкі 0,2 м, у паўд.— 0,8—1 м. Знойдзены ганчарная кераміка 11—13 ст., жал. наканечнік стралы 12—14 ст., рыбалоўны кручок, металічныя вырабы, косці жывёл, выяўлена печ-каменка. Прарэзка вала паказала, што ён насыпаны ў 11 ст. ў адзін прыём. Ядро вала складаецца з гліны, а знешні схіл быў забрукаваны каменнямі. Гарадзішча з'яўлялася адным з абарончых збудаванняў Панямоння. За 200 м на Пн ад вёскі і за 300 м на Пд ад гарадзішча знаходзяцца 2 курганныя могільнікі (5 і 4 насыпы).

*Літ.:* 909, 1054. *С. А. Піваварчык.*

**АСТЭАЛОГІЯ** (грэч. ostéon костка + lógos навука), раздзел анатоміі, які вывучае косці шкілета. Даследаванні заключаюцца ў высвятленні расавых, палавых і ўзроставых адзнак, вызначэння зменлівасці памераў і форм шкілета чалавека *(антрапалогія)* і жывёл *(палеанталогія, археазаалогія).* Звесткі апісальнага і вымяральнага (біяметрыя) спосабаў апрацоўваюцца статыстычна і графічна, адзначаючы безадносныя памеры, различваючы іх суадносіны. Даследаванне касцявых рэштак і форм дае магчымасць вывучаць марфалогію выкапнёвых жывёл і чалавека.

*Літ.:* 478, 1373, 1377.
*Н. П. Александровіч.*

**АТВЕРЖЫЧЫ,** два селішчы і бескурганны могільнік *зарубінецкай культуры* каля в. Атвержычы Столінскага р-на.

Б е с к у р г а н н ы  м о г і л ь н і к. На паўн.-ўсх. ускраіне вёскі, на пясчаным узвышшы ў пойме правага берага р. Гарынь. Адкрыў у 1955 і даследаваў 13 магіл у 1957 і 1962 Ю. У. Кухарэнка, 84 магілы даследавала ў 1963, 1965, 1968 К. В. Каспарава. Пахавальны абрад — трупаспаленне за межамі могільніка з далейшым пахаваннем рэштак крэмацыі ў авальных або круглых ямах.

У 60 пахаваннях перапаленыя косці ссыпалі на дно ямы, у 23 — у гліняныя урны; у 13 магілах выяўлены толькі пахавальны інвентар, без рэштак крэмацыі, у 2 пахаваннях выяўлены кавалкі чырвонай охры. У пахаваннях кальцыніраваныя косці знаходзіліся ў зах., паўн.-зах. або паўд.-зах.

частках могільніка, пахавальны інвентар канцэнтраваўся з процілеглага боку. Колькасны і відавы склад керамікі ў магілах неаднолькавы: ад 1 да 5 пасудзін у розных спалучэннях (найчасцей гаршчок, міска, кубак). У ліку выяўленых рэчаў пераважаюць ляпныя пасудзіны (гаршкі, міскі, кубкі, радзей чаркі), чорныя ці карычневыя глянцаваныя, грубаляпныя з загладжанай ці бугорчатай паверхняй. Сярод кальцынiраваных касцей і керамікі знойдзены металічныя ўпрыгожанні і дэталі адзення. Самую вял. групу ўпрыгожанняў складаюць бронзавыя і жал. фібулы (37 экз. у 20 пахаваннях). Пераважаюць сярэднелатэнскія (25 штук; 18 з іх належаць да зарубінецкага тыпу з трохвугольным шчытком), астатнія — позналатэнскія. Сярод іншых упрыгожанняў і дэталей адзення буйныя бронзавыя шпількі з кольцападобнай, плоскаспіральнай і цвікападобнай галоўкамі, трапецападобныя падвескі на бронзавых ланцужках, бронзавыя спіралепадобныя бранзалеты, шкляныя пацеркі, бронзавыя спіралькі і трубачкі. Унікальная знаходка — скураны пояс з прымацаванымі да яго бронзавымі пласцінкамі і бляшкамі, якія завяршаўся жал. пласцінай, пакрытай бронзавым арнаментаваным лістом, і кручком для мацавання.

На думку Каспаравай, могільнік функцыяніраваў у 1 ст. да н. э.— 1 ст. н. э.

С е л і ш ч а-1. Прымыкала да могільніка з Пд і Пн. У паўн.-зах. яго частцы выяўлена паўзямлянкавае жытло прамавугольнай формы, памерам 4,8×3 м, заглыбленае ў зямлю на 0,7 м. Сценкі катлавана жытла пакатыя, падлога з ушчыльненага мацерыковага пяску з украпінамі попелу і вугалю. У паўд.-ўсх. частцы паўзямлянкі выяўлены рэшткі глінабітнай печы, што размяшчалася ў невял. паглыбленні ў падлозе. Яе дыям. 0,65 м. У запаўненні жытла выяўлена каля 200 фрагментаў грубаляпных і 10 фрагментаў глянцаваных пасудзін (некаторыя з іх арнаментаваны пальцавымі зашчыпамі, ямкамі і насечкамі па краі венчыка, наляпным валікам з зашчыпамі), а таксама 2 гліняныя біканічныя праслíцы і гліняная грузіла. За 2,3 м на ПнЗ ад жытла выяўлена гасп. яма дыям. 0,75 м, глыб. 0,8 м, у якой знойдзены фрагменты грубаляпнога посуду, косці жывёл і кавалкі гліняной абмазкі. Сярод інш. знаходак на тэр. селішча жал. авальная спражка 3—4 ст. н. э., гліняныя праслíцы і грузілы, 2 крамянёвыя нажы для жніва і інш.

С е л і ш ч а-2. За 1 км на ПнУ ад могільніка. Даследавалі Кухарэнка і Каспарава, раскапана 190 м². Культурны пласт 0,7 м. Выяўлены 2 гасп. ямы дыям. 1,1—1,5 м, глыб. 0,7—0,8 м. У іх знойдзены абломкі глянцаваных і неглянцаваных пасудзін, накрывак, косці жывёл і кавалкі гліняной абмазкі.

На тэр. селішча знойдзена каля 500 фрагментаў ляпных вял. таўстасценных гаршкоў з храпаватай паверхняй (некаторыя з іх мелі глянцаванне ў верхняй частцы і наляпны валік з зашчыпамі па лініі падзелу глянцаванай і храпаватай паверхні) і таўстасценных гаршкоў з загладжанай паверхняй. Частка іх арнаментавана зашчыпамі і насечкамі па краі венчыка, ямачнымі ўціскаННЯМІ і наляпным валікам з зашчыпамі або ямкамі. Знойдзены таксама гліняныя біканічнае праслíца і шарык, абломкі каменных зерняцёрак і сякеры.

*Літ.:* 503, 504. *А. А. Егарэйчанка.*

**АТЛАНТЫ́ЧНЫ ЧАС,** гл. ў арт. *Галацэн.*

**АТО́КІНСКІ ВАРЫЯ́НТ БА́НЦАРАЎСКАЙ КУЛЬТУ́РЫ,** археал. культура плямён, якія ў 5—6 ст. жылі ў паўн. раёнах Віцебшчыны (Расонскі, Полацкі, Гарадоцкі і інш.); першая стадыя *доўгіх курганоў Паўночнай Беларусі культуры.* Назву атрымаў ад курганнага могільніка Атокі каля в. Янкавічы Расонскага р-на. Адкрыў Г. В. Штыхаў. Паселішчы невялікія, пл. 0,4—1 га, некаторыя размешчаны побач з гарадзішчамі, другія на значнай адлегласці ад іх. Гарадзішчы ўзгоркавыя *(Лужасна, Свіла-1)* ці мысавыя *(Старое Сяло),* з магутнымі ўмацаваннямі (часам з некалькіх валоў), выкарыстоўваліся як схованкі. Пахаванне адбывалася ў курганных могільніках, дзе побач з доўгімі валападобнымі насыпамі былі круглыя *(Гаравыя, Жабіна,* Старое Сяло, *Дарахі).* Пахавальны абрад — трупаспаленне ў гліняной урне ці ў невял. ямцы каля вяршыні насыпу, у сярэдзіне або ў яго аснове. Некаторыя урны накрываліся другой пасудзінай.



Шпілька і фібулы з бескурганнага могільніка **Атвержычы.**

Пахавальны інвентар — бляшкі-шкарлупкі для ўпрыгожання рэменя ці галаўнога ўбору (часцей сустракаюцца ў пскоўскіх курганах і адлюстроўваюць уплыў культуры заходнефінскіх плямён), сінія шкляныя пацеркі, жал. спражкі, цуглі, шпора, аналагі якіх трапляюцца ў балтаў. У найбольш стараж. курганах Павалішына каля в. Янкавічы знойдзена кераміка 4—5 ст., пакрытая расчосамі (большасцю гладкасценная, з некаторымі асаблівасцямі прапорцый), што сведчыць пра ўплыў кіеўскай культуры ранняга жалезнага веку. Гаршкі аднастайныя, слабапрафіляванай формы, расшыраныя ў верхняй частцы тулава, гарлавіна звужана, край слаба адагнуты.

*Літ.:* 879, 1354. *Г. В. Штыхаў.*

**АТРУ́БЫ,** гарадзішча *мілаградскай культуры* і *зарубінецкай культуры,* каля в. Атрубы Жлобінскага р-на. За 0,5 км на ПнЗ ад вёскі ва ўрочышчы Гарадок, на левым карэнным беразе р. Бярэзіна. Пляцоўка трапецападобная, памер 100× ×55 м, з боку поля ўмацавана валам выш. да 3,5 м, шыр. 12 м і ровам. Выявіў у 1977 У. П. Ксяндзоў, раскапала ў 1983 на ўсх. частцы пляцоўкі 24 м² Н. М. Дубіцкая. Культурны пласт 0,6 м. Знойдзены шлакі, абломкі гліняных пасудзін, упрыгожаных ямкавым арнаментам, скразнымі адтулінамі, пальцавымі ўціскаННЯМІ, пазногцевымі зашчыпамі па вонкавым краі венчыкаў.

**АТРЫБУ́ЦЫЯ** (лац. attributio прыпісванне) у а р х е а л о г і і, выяўленне асноўных, істотных, вызначальных уласцівасцей, прыкмет аб'екта даследавання, яго сутнасці, без якіх ён губляе сэнсавую нагрузку. Пры археал. і гіст. даследаваннях А. праводзяць з дапамогай параўнальна-гістарычнага, параўнальна-тыпалагічнага і інш. метадаў (гл. *Методыка археалагічных даследаванняў).*

Атрыбутыўныя прыкметы ўваходзяць у азначэнне аб'екта. Яны ўзніклі і развіваліся да іх поўнага выяўлення, станавіліся тыповымі, стваралі пэўную сукупнасць, еднасць. А. пэўнага археал. помніка ажыццяўляецца па іх наяўнасці. Падобныя еднасці прыкмет складваліся ў працэсе гіст. развіцця, і таму высвятленне атрыбутыўных рыс патрабуе гіст. падыходу. У археалогіі выкарыстоўваецца А. стараж. рэчаў, комплексаў, культур.

Найвышэйшай ступені дасягае А. этнічнай прыналежнасці помнікаў, калі археал. крыніцы ператвараюцца ў гіст. факты і з'яўляецца магчымасць вывучаць гісторыю пэўнага этнасу (племяннoй групы, народнасці, нацыі). *У. Ф. Ісаенка.*

**АЎГУСТДО́Р** (франц. Augustdor залаты Аўгуста), залатая манета Рэчы Паспалітай, адпавядала 5 *талерам* (*каратная проба* 23,5, *лігатурная маса* 5,96 г). Чаканілася пры Аўгусце III Лейпцыгскім манетным дваром (1753—56, 1758). На *рэверсе* пазначаны намінал 5 Th (thaler). Прататыпам для А. паслужыў пістоль Іспаніі, луідор Францыі, фрыдрыхсдор Прусіі. У 1753—56 чаканіліся фракцыі ў 1/2 і 2 А.

*Літ.:* 1670, 1674.

**АЎГУСТО́ВА**, гарадзішча *днепра-дзвінскай культуры*. Гл. *Звязда.*

**АЎКШТА́ЙТЫ**, група балцкіх плямён, што жылі ў басейне р. Нявежыс і нізоўях Віліі (Нярыс). Назва паходзіць ад літ. aukstuľinis (верхні) у адрозненне ад назвы жэмайтаў, што жылі ніжэй па Нёману. Суседзямі А. былі на Пн — земгалы, на У і ПнУ — *літва*, на Пд — *ятвягі*, на З — жэмайты (гл. *Жмудзь*). Упершыню А. ўпамінаюцца ў Дузбургскай хроніцы ў сувязі з падзеямі 1294—1300. Жылі А. на неўмацаваных паселішчах, а гарадзішчы, верагодна, служылі ім сховішчам (культурны пласт у іх нязначны або адсутнічае). Даследаванымі помнікамі А. з'яўляюцца бескурганныя могільнікі без наземных прыкмет. У 1—4 ст. характэрным для іх быў пахавальны абрад трупапалажэнне (мужчын галавой на З, жанчын — на У), у магілах 5—6 ст. сустракаюцца трупапалажэнне і трупаспаленне, з 7 ст. пераважае трупаспаленне.

Пахавальны інвентар бедны: у 1—6 ст. жалезныя нажы, шылы, сякеры, бронзавыя шпількі і бранзалеты, у 7—13 ст. фрагменты ўпрыгожанняў з каляровых металаў, зрэдку прылады працы і ўзбраенне. У 10—13 ст. побач з нябожчыкам хавалі няспаленых коней (да 10 і больш жывёл) з амуніцыяй і ўпрыгожаннямі (цуглі, страмёны, спражкі, бронзавыя спіралі, пласціны, бразготкі, бурштынавыя пацеркі і інш.).

*Літ.*: 1248. *Я. Г. Зверуга.*

**АЎРЭ́УС** (лат. aureus nummis залатая манета), старажытнарымскі *намінал.* Упершыню выпушчаны Юліем Цэзарам пасля Гальскіх паходаў (58—51 г. да н. э.), сістэматычная чаканка пачалася з часоў Аўгуста [27 да н. э.— 14 н. э.] па *стапе* 40 шт. з рымскай лібры-фунта (327, 45 г) масай 8,18 —8,19 г. Пры Нероне [54—68] стапа А. зменшана да $^1/_{45}$ (7,27—7,28 г), пры Каракале [211—217] — да $^1/_{50}$ (6,55 г), пры Дыяклетыяне [284—305] — да $^1/_{70}$ (4,67—4,68 г), а пасля грашовай рэформы 286 — у $^1/_{60}$ лібры (5,45—5,46 г). Пры Канстанціне I [306—337] А. заменены *салідам.* На *аверсе* — кругавая *легенда,* профільны партрэт імператара ўправа; на рэверсе — кругавая легенда, алегарычная або міфалагічная фігура. На тэр. Беларусі зарэгістравана знаходка А. (г. Браслаў Віцебскай вобл.) імператара Карына [283—285].



**Двайны аўгустдор** 1756 Аўгуста III.

**Аўрэус:** Ціт [79—81] (1). Даміцыян [81—96] (2). Нерва [96—98] (3). Траян [98—117] (4). Адрыян [117—138] (5). Антанін Пій [138—161] (6). Аўрэлій Марк [161—180] (7). Комад [180—192] (8). Септы́мій Сяве́р [193—211] (9). Каракала [211—217] (10). Элагабал [218—222] (11).

*Літ.:* 1538, 1542, 1580.
*В. Н. Рабцэвіч.*

**АЎСЯНІКАЎ** Алег Уладзіміравіч (н. 6.3.1937, г. Табольск), рускі археолаг і гісторык. Д-р гіст. навук (1989). Скончыў Ленінградскі ун-т (1959). Працаваў у Архангельскім абл. краязнаўчым музеі, з 1963 у Ленінградскім аддзяленні ін-та археалогіі АН СССР. Даследуе помнікі археалогіі 6—13 ст., каменную архітэктуру Архангельска, першага рус. запалярнага г. Пустазерска, а таксама Мангазею (Зах. Сібір). Працаваў у архіт.-архел. экспедыцыях у Пераяслаў-Хмяльніцкім, Уладзіміры-Валынскім, Ноўгарадзе. На Беларусі ў 1956—67 даследаваў Спаса-Ефрасіннеўскі і Бельчыцкі Барысаглебскі манастыры ў Полацку, Замкавую гару і Барысаглебскі храм у Навагрудку, помнікі архітэктуры ў Ваўкавыску, навагрудскую кафлю.

*Тв.:* Архитектурно-декоративная керамика XVI—XVII вв. из Новогрудка // Краткие сообщения Ин-та археологии АН СССР. М., 1969. Вып. 120.
*Л. М. Усевіёў.*

**АЎСЯНІКІ,** курганны могільнік *крывічоў* каля в. Аўсянікі Чашніцкага р-на. На беразе воз. Старасельскае, справа ад дарогі Бельнякі — Пуські. Налічваў 60 (збярогся 1) насыпаў выш. 1,5—3 м, дыям. 13—15 м. Даследаваў 3 насыпы ў 1988 Е. Р. Раманаў, абследавалі ў 1971 В. В. Караткевіч, у 1981 Т. С. Бубенька. Пахавальны абрад — трупапалажэнне галавой на ПнЗ. Знойдзены сярэбраныя пярсцёнак, медальён і завушніцы, каля 700 пацерак, грыўня, лунніцы, скроневыя кольцы, вянок з дрэва (абцягнуты скурай і тканінай, упрыгожаны пацеркамі і медальёнамі), кольца з дроту, нажы, цвікі, крэсіва. У адным насыпе выяўлены 3 пахаванні і агнішча. Датуецца канцом 1-га — пач. 2-га тысячагоддзя.

*Літ.:* 34, 66, 471. *Т. С. Бубенка.*

**АЎТАХТОННАСЦЬ** ( грэч. autochthon мясцовы, карэнны) у археалогіі, паходжанне археал. культуры ад культуры, што займала раней тую ж тэрыторыю. На Беларусі прыкладам А. з'яўляецца *мілаградская культура* пач. жалезнага веку, якая паходзіць ад *лебядоўскай культуры* (канца эпохі бронзы), што, у сваю чаргу, генетычна звязана з папярэдняй *сосніцкай культурай.* Процілеглая А.— канцэпцыя паходжання новай культуры ў працэсе *міграцыі.*

**АХВЯРНІК** (стараслав. трэбішча), месца прынашэння дароў (матэрыяльных рэчаў, прадуктаў харчавання, палявання, грошай і інш.) духам продкаў, багам, святым; у старажытнасці ў ахвяру прыносілі і людзей, але найчасцей — жывёлу (праліццё крыві — сімвал жыцця). Паводле сведчанняў візантыйскага гісторыка Пракопія Кесарыйскага (6 ст.), славяне прыносілі ахвяру з паяўленнем небяспекі, а калі яна мінавала, ахвяравалі ў знак удзячнасці.

Адзін з язычніцкіх А. выяўлены на Пярыньскім свяцілішчы каля Ноўгарада ў выглядзе кола з неапрацаваных камянёў, складзенага перад ідалам. На Кіеўскім свяцілішчы 8—10 ст. А. размешчаны на Пд каля *капішча* — пласт перапаленай гліны, каля якога знойдзена шмат касцей свойскіх жывёл. На Падоллі каля г. Гарадок раскапана свяцілішча 6—7 ст., побач з якім у паглыбленні размяшчалася круглае вогнішча з рэшткамі абпаленых касцей жывёл і фрагментамі глінянага посуду. А. з касцямі каня і жал. наканечнікамі стрэл 9 ст. знойдзены каля Жытоміра. Валы язычніцкіх свяцілішчаў Паўн. Букавіны мелі плоскую вяршыню або ступеньку на схіле, дзе гарэлі агні. У неглыбокіх равах з плоскім дном раз-водзіліся вогнішчы, для якіх на дне рабілася выбрукоўка з камянёў, дзе, напэўна, знаходзіліся «палаючыя» А., куды кідалі мяса жывёл і рытуальна разбітыя пасудзіны.

На Беларусі А. тыпалагічна блізкія да свяцілішчаў Паўн. Букавіны — *Верхаўлянскае свяцілішча.* Сярэдзінай 10 — пач. 11 ст. датуецца *Ходасавіцкае свяцілішча,* рэканструяванае А. В. Кузай і Г. Ф. Салаўёвай. У якасці А. да нашага часу выкарыстоўваецца Даджджбогаў камень *Крамянецкага свяцілішча.* Ён абкружаны 4-вугольнай выбрукоўкай з камянёў. На этнічна бел. тэрыторыі, каля в. Гачкі паблізу г. Бельск-Падляскі (усх. Беласточчына) у 1970 пры раскопках гарадзішча В. Шыманьскім выяўлена ахвярная яма з вял. колькасцю буйных гліняных місак і касцямі буйной рагатай жывёлы. Гэтыя і падобныя ім знаходкі пераклікаюцца з паведамленнем Пракопія Кесарыйскага аб прынясенні славянамі ў ахвяру богу Грому (Пяруну) быкоў. У 6 ст. пляцоўка гарадзішча была апяразана кальцом жылой забудовы, якая ўзмацнялася па краі сцяной з пакладзеных гарызантальна бярвёнаў, змацаваных з кожнага канца парай слупоў. Сярод попелу ахвярных вогнішчаў усюды трапляліся кальцыніраваныя косці чалавека, што сведчыць пра ахвярапрынашэнні. У культурным пласце знойдзены бясформенныя брылы памерам у некалькі сантыметраў з ператворанага ў вугаль арганічнага рэчыва. Яны былі ідэнтыфікаваны як рошчына прасяных круп, змяшаных з мукой з пражанага проса. З усяго гэтага зроблена штосьці накшталт хлеба для ахвярапрынашэнняў, які клалі разам з жывёльнымі ахвярамі. Ролю проса ў абрадах старажытных славян адзначалі арабскія падарожнікі сярэднявечча. Выяўленыя на гарадзішчы сляды заняткаў каляровай металургіяй могуць сведчыць аб прысутнасці тут «чараўніка», звязанага з паганскім (нехрысціянскім) культам, які ў гэты час мог выконваць функцыі жраца. Чараўнікі і жрацы часта паходзілі з асяроддзя кавалёў і металургаў. Ёсць падставы меркаваць пра існаванне А. на гарадзішчы каля г. Косава Івацэвіцкага р-на. Яно размешчана на вяршыні высокай гары, мае сістэму размяшчэння равоў і валоў у многім аналагічную свяцілішчам Смаленшчыны і Букавіны. Пры раскопках у адным месцы на глыб. 0,5 м выяўлена стаpанна выкладзенае абпаленымі камянямі агнішча, на якім знойдзены фрагменты ляпной керамікі. На Пд ад яго, уздоўж вала ішла выбрукоўка з камянёў шырынёй каля 1,3 м. У некаторых месцах яна перарывалася агнішчамі, якія былі прыўзняты над выбрукоўкай. Пры іх знойдзены крамянёвыя прылады, косці, зубы свойскага быка ці зубра, іклы і зубы дзіка. У рове паміж 2 валамі выяўлены гумусавы пласт, пад якім даволі шчыльна залягалі камяні. У ніжняй частцы гумусавага пласта траплялася вуголле, косці жывёл (пераважна свінні), крамяні са слабымі слядамі апрацоўкі. Па знаходках ранняй ганчарнай керамікі помнік можна датаваць 10—11 ст. Акрамя помнікаў, на якіх праводзіліся раскопкі, па запісаных у 19 ст. легендах паганскія А. існавалі таксама на гарадзішчы каля вёсак Васькаўцы і Хоўхлава Маладзечанскага р-на, ва ўрочышчы Святая Грыва Ровенска-Слабодскай воласці б. Рэчыцкага пав. Паводле меркаванняў К. П. Тышкевіча, А. былі таксама на гарадзішчы каля в. Быстрыца Астравецкага р-на і каля культавага каменя паблізу б. хутара Тупальшчына Смаргонскага р-на. Пра месцы прынясення славянамі-язычнікамі ахвяр згадваецца і ў «Аповесці мінулых гадоў» (пач. 12 ст.). Пазней частка паганскіх А., асабліва святых крыніц і камянёў, была адаптавана да хрысціянскіх абрадаў і выконвала функцыі прошчаў.

*Літ.:* 1014, 1052, 1490.
*Э. М. Зайкоўскі.*

**АХОВА ПОМНІКАЎ АРХЕАЛОГІІ,** сістэма дзярж. і грамадскіх мерапрыемстваў па засцярозе ад разбурэння і захаванню помнікаў археалогіі. Ахове падлягаюць рэшткі стараж. пасяленняў, стаянкі, паселішчы, гарадзішчы, бескурганныя і курганныя могільнікі, месцы знаходжання стараж. майстэрняў, шахтаў і інш. Дзейнасць па А.п.а. складаецца з навукова-даследчай работы (вывучэнне, публікацыя), выдання заканадаўчых актаў (прызнанне таго ці інш. аб'екта помнікам археалогіі), прыняцця законаў, якія забараняюць іх разбурэнне або пашкоджанне, распрацоўкі інструкцый аб парадку ўліку, захавання, кансервацыі, рэстаўрацыі, папуля-

рызацыі помнікаў як гіст. спадчыны.

У Расіі ўказы пра збіранне і захаванне стараж. рэчаў упершыню прыняты Пятром I (1718, 1722). У 1-й пал. 18 ст. пачаўся пошук і апісанне помнікаў гісторыі і археалогіі з мэтай стварэння гіст. прац, сталі выдавацца ўказы па іх ахове. У 19 ст. ствараліся навук. таварыствы па вывучэнні гіст. помнікаў: *Археалагічная камісія* ў Пецярбургу (1859), *Маскоўскае археалагічнае таварыства* (1864), Маскоўскі археал. інстытут (1877), губернскія вучоныя архіўныя камісіі, губернскія і абласныя статыстычныя к-ты. Пытанні аховы помнікаў абмяркоўваліся на *археалагічных з'ездах*. Сав. дзяржава з першых дзён свайго існавання прымала захады да захавання помнікаў культуры і мастацтва. Выдадзеныя па ініцыятыве У. І. Леніна ў 1918—24 дэкрэты (больш за 15) сталі асновай сав. дзярж. сістэмы аховы помнікаў.

24.12.1923 СНК БССР прыняў пастанову пра абавязковую рэгістрацыю і ахову помнікаў мастацтва, старажытнасці, нар. побыту і прыроды, якія знаходзяцца ва ўласнасці ўстаноў, таварыстваў і прыватных асоб. Ахову помнікаў да 1925 ажыццяўляў Наркамат асветы БССР, потым Інбелкульт. У 1926 І Усебеларускі краязнаўчы з'езд паставіў задачу ўлічыць помнікі археалогіі і выратаваць іх ад разбурэння. Першы спіс помнікаў культуры зацверджаны пастановай СНК БССР ад 5.7.1926. СМ БССР пастановай ад 22.8.1949 № 990 зацвердзіў «Інструкцыю аб парадку ўліку, рэгістрацыі і ўтрымання археалагічных і гістарычных помнікаў на тэрыторыі БССР». Пасля Айчыннай вайны праведзена перарэгістрацыя помнікаў, што зберагліся (1950, 1957), зацверджаны новыя спісы помнікаў археалогіі, якія падлягаюць дзярж. ахове. У адпаведнасці з законам БССР «Аб ахове і выкарыстанні помнікаў гісторыі і культуры» (14.7.1978) з 1.11.1978 дзярж. кіраўніцтва па ахове помнікаў на тэр. Беларусі ажыццяўляецца Саўмінам, выканкамамі абл., раённых, пасялковых і сельскіх Саветаў нар. дэпутатаў, а таксама спец. упаўнаважанымі дзярж. органаў аховы помнікаў (Міністэрства культуры, Камітэт па архівах і справаводстве і іх органы на месцах). Значную дапамогу дзярж. органам аказвае *Беларускае добраахвотнае таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры*, створанае ў 1966. Паводле ўрадавых пастаноў забараняецца знішчаць, пашкоджваць і выкарыстоўваць археал. помнікі, музейныя экспанаты, знаходкі і скарбы, праводзіць самавольныя раскопкі на помніках без спец. дазволу (*адкрытага ліста*), іх змену, перабудову, забудову, знос, а таксама ліквідацыю музейных калекцый, помнікаў мастацтва і рэчаў у збудаваннях, узятых пад ахову. Вінаватыя ў наўмысным разбурэнні і пашкоджанні помнікаў прыцягваюцца да крымінальнай адказнасці паводле арт. 225 Крымінальнага кодэкса БССР. На Беларусі налічваецца некалькі тысяч помнікаў археалогіі. Для асобнага аб'екта, групы ці комплексаў помнікаў, гіст. цэнтра горада ўстанаўліваецца *ахоўная зона*.

*Літ.*: 401, 402, 594, 845, 1110.

*Ф. В. Барысевіч, Г. В. Штыхаў.*

**АХОЎНАЕ АБАВЯЗАЦЕЛЬСТВА,** дакумент, які падпісваюць дзяржаўныя, кааператыўныя і інш. грамадскія арганізацыі, установы, асобы, што з'яўляюцца ўладальнікамі або выкарыстоўваюць помнікі гісторыі і культуры для навуковых, культурна-асветных і інш. мэт, а таксама прадпрыемствы, установы, арганізацыі ці грамадзяне, якія карыстаюцца зямлёй з размешчанымі на ёй нерухомымі помнікамі, за выключэннем тых помнікаў, што выкарыстоўваюцца на падставе ахоўна-арэндных і ахоўных дагавораў (пераважна помнікі архітэктуры і гісторыі).

А. а. прадугледжвае дзеянні, якія ўладальнік павінен ажыццяўляць для забеспячэння захаванасці помніка, своечасовага яго догляду, умоў выкарыстання і інш. мерапрыемстваў, абумоўленых дзеючым заканадаўствам. Папярэджвае таксама пра адказнасць за парушэнні правіл аховы і выкарыстання помніка, вызначае адказную за іх выкананне асобу. Дакумент захоўваецца ў мясцовых дзярж. органах аховы помнікаў, упраўленнях культуры, якія ажыццяўляюць нагляд за іх выкананнем.

*Дз. С. Бубноўскі.*

**АХОЎНАЯ ЗОНА** помніка археалогіі, тэрыторыя вакол помніка, якая прызначаецца для яго захавання, экспазіцыі і мэтазгоднага выкарыстання. Дзярж. камітэт БССР па справах будаўніцтва і Мін-ва культуры БССР па ўзгадненні з Бел. т-вам аховы помнікаў гісторыі і культуры 16.5.1968 зацвердзілі інструкцыю «Аб арганізацыі ахоўных зон і рэгуляванні забудовы для помнікаў гісторыі і культуры ў БССР». Паводле інструкцыі ахоўная тэрыторыя помнікаў складаецца з А. з. і зоны рэгулявання забудовы. Канкрэтнае вызначэнне граніц, памераў і канфігурацыі гэтых зон ставіцца ў залежнасць ад тыпу і размяшчэння помніка, а таксама ад гіст. тапаграфіі, прыродных межаў і выкарыстання. Для адкрытых (неўмацаваных) паселішчаў А.з. вызначаецца плошчай распаўсюджвання культурнага пласта. Для курганоў, гарадзішчаў, гіст. цэнтраў гарадоў і інш. асобных аб'ектаў межы А.з. павінны забяспечваць найлепшую бачнасць помніка, пры адсутнасці забудовы ўстанаўліваюцца на адлегласці, не меншай за яго двайную вышыню або даўжыню, з мэтай забеспячэння аптымальнага ўспрыняцця назіральнікам.

Звычайна мяжа А.з. для курганнага могільніка праводзіцца на адлегласці 50 м ад раўкоў курганоў, а для асобных насыпаў — 15—20 м. Зону забудовы, якая рэгулюецца, рэкамендуецца рабіць шыр. 100—300 м. А. з. павінна быць адзначана ахоўным знакам. Найважнейшыя А.з. на Беларусі: тэр. Верхняга і Ніжняга замкаў у Полацку, Верхняга горада ў Мінску, гарадзішча Замэчак і Спаса-Праабражэнскай царквы ў Заслаўі, Нясвіжскага палацава-паркавага комплексу, Замкавая гара ў Гродне з усімі архіт. і гіст. помнікамі.

*Літ.*: 4, 992, 1110. *Г. В. Штыхаў.*

**АХОЎНЫ ЗНАК,** доўгачасовы знак, які ўстанаўліваюць на мяжы *ахоўнай зоны* археал. помніка як сведчанне пра ахову яго дзяржавай. Зацверджаны Мін-вам культуры БССР у 1976. Мае форму прамавугольнага геральдычнага шчыта з алюмінію памерам 440×400 мм, з надпісам: «Міністэрства культуры БССР. Помнік археалогіі...», указваецца тып помніка (гарадзішча, паселішча, могільнік, курганны могільнік і г. д.) і што ён ахоўваецца дзяржавай. Распрацавалі М. А. Ткачоў, мастак Н. У. Малчанава.



**Ахоўны знак** на гарадзішчы старажытнага Пінска.

Часова дазваляецца ставіць знак з падручных матэрыялаў. Ставіць А. з. каля помніка з найб. бачнага боку, павернутага да дарогі ці сцяжынкі на мяжы ахоўнай зоны, аддалены на 15—20 м ад помніка, якая ахоплівае ўсе валы, схілы, равы. Вакол курганоў мяжу праводзяць з улікам прыкурганных раўкоў, для паселішчаў — на адлегласці 15—20 м, дзе культурны пласт ужо не назіраецца. Размяшчэнне А.з. не павінна шкодзіць помніку, таму забаронена ўмацоўваць яго на вяршыні кургана, на грэбені вала гарадзішча, у культурным пласце паселішча і г. д. У 1981—87 устаноўлена каля 1200 А.з. Пашкоджанне А.з. разглядаецца і караецца, як і пашкоджанне помніка.

*У. Ф. Ісаенка.*

**АХРЭМАЎЦЫ,** курганны могільнік 8—10 ст. каля в. Ахрэмаўцы Браслаўскага р-на. У навук. літ-ры вядомы па назве б. маёнтка Бяльмонты. За 0,5 км на Пд ад вёскі, у лесе. 76 насыпаў. Адкрыў і даследаваў 7 насыпаў у 1892 Ф. В. Пакроўскі, даследавалі 2 насыпы ў 1938 Г. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіч, 5 насыпаў у 1976—78, 1982 Л. У. Дучыц. Пахавальны абрад — трупаспаленне. Знойдзены (у 4 курганах) жал. і бронзавыя спражкі, пярсцёнак, 5 бронзавых скроневых кольцаў, фрагменты бронзавага ўпрыгожання, ляпныя пасудзіны. Належаў балта-славянскаму насельніцтву.

*Літ.*: 913.

**АХТЦЭНГРОШЭР** (ням. Achtzengröscher васемнаццаціграшовік), адна з назваў *орта.* Вядомы ва ўжытку ў 2-й пал. 17—18 ст. Узнік у выніку інфляцыі нізкапробных разменных манет (*соліда, гроша, паўтараграшовіка*), калі курс орта павысіўся з 10 да 18 грошаў і на яго рэверсе з'явілася адзнака наміналу — 18.

**АШМЯНСКІ КРАЯЗНАЎЧЫ МУЗЕЙ** імя Ф. К. Багушэвіча. Заснаваны ў 1952, адкрыты ў 1955. Экспазіцыя па археалогіі складаецца з прадметаў 14—16 ст., знойдзеных у *Ашмянах* (фрагменты шклянога посуду, непаліванай і паліванай керамікі, кафлі, жалезныя наканечнікі кап'я, цвікі, аконная завеса, цыркуль, нож і інш.) і 12—16 ст., выяўленых у *Гальшанах* (фрагменты керамічнага і шклянога посуду, цэгла, жалезныя скабянка, нож, каваныя цвікі, дзвярная завеса). Нумізматычная калекцыя складаецца з манет 18—19 ст., у т. л. палушкі 1821, 3 капейкі 1841, капейка 1897.

**АШМЯНЫ,** горад, цэнтр Ашмянскага р-на, на р. Ашмянка. За 188 км на ПнУ ад Гродна, за 17 км ад чыг. ст. Ашмяны на лініі Маладзечна — Вільнюс, на аўтадарозе Маладзечна — Вільнюс. Упершыню ўпамінаецца пад 1341 у Хроніцы Літоўскай і Жамойцкай. У выніку археал. раскопак у 1984—85 (кіраўнік А. К. Краўцэвіч) выяўлены сляды стараж. паселішча, якое размяшчалася на правым беразе ракі ў Старых Ашмянах (сучасная вул. Кастрычніцкая, каля б. касцёла францысканцаў). Культурны пласт 0,6—1,2 м на пл. 0,25 га. Знаходкі датуюцца 14—19 ст. Да 14 ст. належаць толькі наканечнік стралы і некалькі фрагментаў керамікі. У цэнтры горада культурныя напластаванні да 1,5 м (каля плошчы). Культурны пласт мае 2 гарызонты: у верхнім (таўшч. 0,3 — 1 м) знаходкі 17—19 ст., у ніжнім (зафіксаваны толькі каля плошчы) рэчы 15—17 ст.

У час раскопак сабрана вял. колькасць керамічнага посуду: непаліванага (гаршкі, макотры, міскі, накрыўкі), паліванага зялёнага і карычневага колеру (гаршкі, талеркі, кубкі, рынкі, накрыўкі, міскі), моранага (гаршкі, талеркі, збаны, міскі). Для Ашмяншчыны характэрны тып гаршка з закругленым патоўшчаным краем без венчыка. Выяўлена таксама кафля: гаршковая з круглым і прамавугольным вусцем і каробчатая — тэракотавая і зялёнапаліваная, упрыгожаная раслінным, радзей геаметрычным ці геральдычным арнаментам. Цікавая знаходка — кафлі-каронкі 16 ст., пакрытыя зялёнай палівай. Сярод знаходак шкляныя кварты, бутэлькі, шкляніцы, чаркі, аконныя шыбы (усе 17—19 ст.), металічныя падковы 15—16 ст., ключы, шпора 17—18 ст., наканечнік стралы 14 ст. Шэраг знаходак з А. зберагаецца ў *Ашмянскім краязнаўчым музеі.*

*А. К. Краўцэвіч.*



**БАБІНАВІЦКАГА ТЫПУ ПОМНІКІ.** Гістарычную агульнасць археал. помнікаў у раннім і развітым неаліце на У Бел. Падзвінне і ў прылеглых раёнах Верхняга Падняпроўя вылучыў Э. М. Зайкоўскі, даследавалі В. П. Траццякоў, І. М. Ціханенкаў. Паселішчы размяшчаліся на берагах рэк і азёр, у т. л. і на карэнных берагах выш. 10 м і больш над сучасным межанным узроўнем вады, што звязана з трансгрэсіяй прыродных вадаёмаў у атлантычным або суббарэальным перыядзе. Насельніцтва займалася паляваннем, рыбалоўствам, збіральніцтвам. Большасць крамянёвых прылад працы зроблена на пласцінах і пласціністых адшчэпах: канцавыя скрабкі, вуглавыя разцы, трапецыі і сячэнні пласцін, сегменты, грубааббітыя сякеры. Наканечнікі стрэл падзяляюцца на 4 тыпы: тронкавыя бабінавіцкага тыпу, лістападобныя, з бакавымі выемкамі, рамбічныя. Кераміка па складу гліны, арнаментацыі і стратыграфічных умовах залягання падзяляецца на 3 храналагічныя групы.

Найбольш ранняя кераміка з дамешкам пяску ці кварцу ў гліне мае падгарызантальныя расчосы з унутранага боку. Таўшчыня сценак 0,7—1 см. Венчыкі звычайна злёгку адагнутыя звонку, але трапляюцца і прамыя. 55—61 % фрагментаў керамікі не арнаментаваны, 25—37 % з грабеньчатым арнаментам, 7—13 % спалучэнне адбіткаў грабеньчатага штампа з ямкамі і наколкамі. Шмат абломкаў з накольчатымі і грабеньчатымі ўзорамі, зрэдку трапляецца арнамент у выглядзе пракрэсленых ліній. Больш за ўсё кераміка гэтага тыпу падобная да керамікі верхняволжскай культуры (5—4-е тысячагоддзі да н. э.) і менш да керамікі *днепра-данецкай культуры* і ранняга этапу *нарвенскай культуры.* Другую групу складае кераміка з арганічным дамешкам у гліне і расчосамі з унутранага боку. Пасудзіны мелі патоўшчаныя закругленыя донцы. Значная частка фрагментаў без арнаментаў, сярод арнаментаваных пераважалі адбіткі грабеньчатага штампа, спалучэнні грэбеня з ямкамі і наколамі, наколы, ямкі. У арнаменце гаршкоў паявіліся насечкі, што збліжае іх з керамікай нарвенскай культуры (Бабінавічы, стаянка-2). Да 3-й групы адносіцца гладкасценная кераміка з арганічным дамешкам у гліне, менш шчыльная, чым у папярэдняй групе. Таўшчыня сценак пасудзін 0,4—0,9 см. Венчыкі найчасцей прамыя ці злёгку адагнутыя звонку, часам на зрэзы іх нанесены арнамент. З прыёмаў арнаментацыі па-ранейшаму пераважалі грабеньчатыя (каля трэці фрагментаў), а таксама спалучэнні грэбеня з інш. элементамі, паяўляюцца «вусеневыя» адбіткі і сляды тонкай слаба перавітай вяровачкі, пашыраюцца насечкі. У гэтай групе яшчэ больш узмацняюцца рысы, характэрныя для нарвенскай культуры. Па аналогіі з верхняволжскай культурай помнікі тыпу Бабінавіч датуюцца сярэдзінай 5-га — 4-м — канцом 3-га тысячагоддзя да н. э. Да Б. т. п. належаць *Бабінавічы, Мяжа, Старыя Лаўкі, Зарэчча.*

*Літ.:* 395. *Э. М. Зайкоўскі.*

**БАБІНАВІЧЫ,** паселішчы эпохі неаліту каля в. Бабінавічы Лёзненскага р-на.

Паселішча-1. На мысе, утвораным паўн. берагам воз. Бабінавіцкае і правым берагам р. Вярхіта, каля вытоку яе з возера. Выявіў у 1926 Я. Сяргеенка, даследавалі ў 1967—68 І. М. Ціханенкаў, у 1978 Э. М. Зайкоўскі, раскапана 164 м² плошчы. Культурны пласт 0,6—0,8 м. Знойдзены крамянёвыя скрабкі, скрэблы, скоблі, разцы, ромбападобныя і лістападобныя наканечнікі стрэл, сякеры.

Найб. ранняя кераміка мела ў гліне дамешкі жарствы і пяску, на ўнутранай паверхні расчосы, сярод арнаментаў пераважалі адбіткі грабеньчатага штампа, ямкі, наколы. У найб. позняй кераміцы пераважаў грабеньчаты арнамент у спалучэнні яго з інш. элементамі, паявіліся «вусеневыя» адбіткі і ўзоры з насечак. Кераміка ранняга этапу блізкая да посуду *верхняволжскай культуры,* пазней узмацняецца ўплыў *нарвенскай культуры.*

Датуецца 4—3-м тысячагоддзямі да н. э.

Паселішча-2. На правым беразе р. Лучоса, вышэй моста. Выявіў у 1967, даследаваў у 1967—68 Ціханенкаў, ускрыта 250 м² плошчы. Культурны пласт 0,2—0,5 м. Знойдзены крамянёвыя скрабкі (закругленыя, канцавыя і бакавыя на пласціністых адшчэпах і асколках), скобля, трапецападобныя прылады для сячэння, нажападобныя пласціны, нажы, вуглавыя разцы, ромбападобны наканечнік стралы і наканечнік кап'я, 377 абломкаў керамікі, 181 з іх адносіцца да ранняй групы (мінеральная дамешка ў гліне, расчосы з унутранага боку).

Большасць керамікі без арнаменту.

арнаментаваная кераміка ўпрыгожана адбіткамі грабеньчатага штампа, спалучэннямі грабеньчатых узораў з ямкамі і тычкамі або дробнымі наколамі. Да другой групы (77 фрагментаў) адносіцца кераміка з арганічнымі дамешкамі ў гліне, расчосамі на ўнутранай паверхні, гладкасценная і арнаментаваная адбіткамі грабеньчатага штампа, спалучэннямі грабеньчатых узораў з ямкамі і насечкамі, а таксама з наколамі, ямкамі, насечкамі. Трэцюю, найб. позную групу складае гладкасценная кераміка з арганічнай дамешкай у гліне (119 фрагментаў); сярод арнаментаў грабеньчатыя ўзоры і спалучэнні іх з ямкамі, насечкамі, тычкамі, вяровачнымі адбіткамі і інш.

Паселішча датуецца 4—3-м тысячагоддзямі да н. э.; на раннім этапе мае рысы, блізкія да верхняволжскай культуры, пазней узмацняецца ўплыў нарвенскай культуры. Гл. таксама *Бабінавіцкага тыпу помнікі.*


Кераміка бабінавіцкага тыпу помнікаў (1—6 — першая група; 7—11 — другая група; 12—17 — трэцяя група). Элементы арнаменту: грабеньчаты (1—2, 5—6, 8—9, 12—13), тычкі (3, 7, 16), ямкавы і грабеньчаты штампы (4, 10), наколы (11, 17), адбіткі вяровачкі (14), вусеневыя адбіткі (15).

**БАБРО́ВІЧЫ**, паселішчы каменнага веку каля в. Бабровічы Івацэвіцкага р-на.

П а с е л і ш ч а-1 канца палеаліту і эпохі позняга палеаліту і мезаліту. На паўн.-ўсх. беразе воз. Бабровіцкае, на марэнным узгорку «Востраў». Выш. 3—4 м над узроўнем вады, даўж. каля 200 м. Выявіў у 1963 і даследаваў у 1971 У. Ф. Ісаенка, абследавала ў 1989 Н. В. Шаблюк.

Знойдзены рэшткі 6 вогнішчаў, абкладзеных камянямі. Вакол іх сабрана больш за 100 крамянёвых прылад працы і каля 600 апрацаваных крамянёў: лістападобныя наканечнікі стрэл, свярдзёлкі і сярэдзінныя праколкі з пласцінак з бакавой рэтушшу, папярочна рэтушаваныя разцы, масіўныя канцавыя скрабкі, скоблі свідэрскай культуры. Трапляюцца таксама тыповыя для макралітычнай культуры грубыя разцы і скрабкі, прылады, якімі секлі, цёслы, міндалепадобныя сякеры або разакі, вастрыі яніславіцкай культуры.

Датуецца 10—6-м тысячагоддзямі да н. э.

П а с е л і ш ч а-2. На паўн.-зах. беразе воз. Бабровіцкае, на пясчаных раздувах ва ўрочышчах Вяда і Тупічы. Выявіў у 1963 і даследаваў у 1971 Ісаенка, у 1989 даследавалі Н. В. Шаблюк і В. У. Шаблюк. Культурны пласт да 0,25 м.

Знойдзены канічныя і двухпляцовачныя нуклеусы свідэрскага тыпу, канцавыя скрабкі з высокіх пласцінак, вуглавыя і сярэдзінныя разцы (пераважна на краях зламаных пласцінак), скоблі, 4 тронкавыя наканечнікі стрэл 8—6-га тысячагоддзяў да н. э. Выяўлены таксама фрагменты бытавой керамікі, зялёнапаліванай кафлі, шкляны посуд, металічны ключ, долата, скобы, цвікі 15—18 ст.

*Літ.:* 460.

*У. Ф. Ісаенка, Н. В. Шаблюк.*


Крамянёвы інвентар бабінавіцкага тыпу помнікаў: наканечнікі стрэл (1, 3—5, 8, 9, 19, 23, 30), скрабкі (6, 11—15, 22, 25, 27—29, 31, 33, 36), разцы (10, 16, 21, 24, 35), трапецыя (20), нож (18), скобля (26), скрэбла (32), сякера (34).

**БАБРУ́ЙСКІ ЗА́МАК.** Існаваў у 14—18 ст. на правым беразе р. Бярэзіна, непадалёку ад сутокаў з р. Бабруйкай. Займаў вяршыню пагорка берагавога плато памерам 53 × 66 м, якому пазней надалі 4-вугольную форму. З боку Бярэзіны замак быў ахаваны высокім і стромкім схілам, з астатніх бакоў умацаваны абарончым ровам шыр. да 15 м. Паводле «Уставы» 1626, замак быў абкружаны земляным валам, на якім стаялі абарончыя драўляныя вежы і сцены — дубовы «штакет», 2 вежы з абламамі, уязная вежа-брама. Маг-

чыма, вежы былі і з боку р. Бярэзіна. У ліку агнястрэльнай зброі ў замку «Устава» называе 2 жал. гарматы, 3 серпанціны, 43 гакаўніцы, 11 ручніц губчастых, запасы жал. і каменных ядраў, алавяныя кулі да гакаўніц, порах, салетру, серу, волава. Інвентар 1671 паведамляе пра драўляны мост, што быў перакінуты цераз абарончы роў да 2-яруснай уязной брамы. Яе ніжні прамавугольны ярус меў праезд, які зачыняўся падвойнымі варотамі з спец. «форткай» для пешаходаў і сістэмай жал. запораў — «зашчэпак з прабоямі». Верхні ярус у выглядзе «вежы на дзесяцерыку» меў байніцы для стральбы з гакаўніц, якіх было 3 «з усім неабходным для стральбы». Дзве іншыя 2-ярусныя вежы, вельмі падобныя паміж сабой, крытыя драніцамі і з «дольным схованьем», былі абмазаны глінай у проціпажарных мэтах і для прадухілення гніення. Гэтыя 3 вузлы абароны размяшчаліся з напольнага боку ад горада. З боку р. Бярэзіна замак быў абаронены 2 рэдутамі — драўляна-землянымі збудаваннямі бастыённага тыпу, перакрытымі гонтавымі стрэшкамі. Рэдуты трымалі пад абстрэлам пераправу цераз Бярэзіну і абаранялі падыходы да гар. брамы Падольнай, якая ўваходзіла ў склад *Бабруйскіх гарадскіх умацаванняў*. Паміж вежамі і рэдутамі размяшчаліся рубленыя сцены — гародні з тоўстых дубовых бярвён з галерэяй насценнага бою — бланкаваннем. На замкавым дзядзінцы размяшчаўся мураваны цэйхгауз, дзе знаходзіліся 5 спраўных гакаўніц і 450 гакаўнічных ствалоў. Паводле інвентара 1684, планіровачная структура Б. з. не змянілася, але зброі ў цэйхгаузе паменшала: згадваюцца 8 гакаўніц з запасам жал. куль. Інвентар 1692 сведчыць пра паступовы заняпад і разбурэнне ўмацаванняў замка, якія перастаў існаваць у канцы 18 ст., аднак на плане г. Бабруйска 1794 яго сляды яшчэ выразна захаваліся.

За час свайго існавання Б. з. перажыў шмат аблог і разбурэнняў. У 1502 і 1503 яго спустошалі крымскія татары, у 1506 «перад Тройцыным днём» неаднаразова асаджаў мяцежны князь М. Глінскі. У студзені 1649 замак згарэў у час аблогі Бабруйска войскамі гетмана Я. Радзівіла, які выбіваў паўстанцаў-казакаў на чале з Паддубным і Гараджан, што далучыліся да паўстанцаў. У сакавіку 1655 казакі гетмана І. Залатарэнкі спалілі замак, гэта паўтарылася і ў 1665 пасля чарговай казацкай аблогі. Замак дагледаўся і рамантаваўся насельніцтвам горада і воласці. Мяшчане абавязаны былі будаваць 2 замкавыя вежы «з кгрунту аж до обламку» і рэгулярна абмазваць глінай; па загаду замкавай адміністрацыі для нясення варты «ад свавольных людзей» мусілі выстаўляць у брамах столькі людзей, колькі «потреба укажет», вылучаць і пасылаць за свае грошы для пастаяннай круглагадовай «старожы» ад татар спец. групу конных воінаў у Рэчыцу, Мазыр і Лоеў, каб мець аператыўную «ведомость о постороннем неприятеле». Сяляне Бабруйскай воласці неслі «старажоўшчыну» ў замку і фальварку 4 тыдні на год (2 вясною і 2 восенню), «водлуг старой уставы и давнего звычаю свойго» хадзілі ў Б. з. «на замкавую патрэбу» для рамонту ўмацаванняў. Разам з мяшчанамі яны здавалі грошы «на старожу» ад татар.

*Літ.:* 14, 312. *М. А. Ткачоў.*



Крамянёвыя наканечнікі стрэл (1—5), вастрыі (6, 18, 27), разцы (7—17), нажы (19—21, 24), скрабкі (23, 25, 26, 28, 29), сякеры (30, 31), адціскальнік (32) з паселішча-1 **Бабровічы**.




**Бабруйскі замак.** План: замак (1), каралеўскі двор (2), брама Падольная (3), брама Свіслацкая (4), брама Кісялёўская (5), брама Прудовая (6).

**БАБРУ́ЙСКІ КРАЯЗНА́ЎЧЫ МУЗЕ́Й.** Заснаваны ў 1924. Мае 224 археал. экспанаты (1991): нуклеусы, крамянёвыя пласціны і адшчэпы, прылады працы каменнага веку, косці маманта і шарсцістага насарога, свідраваныя каменныя сякеры бронзавага веку (выпадковыя знаходкі), жал. нажы, шпоры, бронзавыя позналатэнская фібула, трапецападобная падвеска і пярсцёнак, гліняныя прасліцы, пацеркі, фрагменты посуду, шкляныя пацеркі і інш. рэчы мілаградскай і зарубінецкай культур з раскопак гарадзішча *Шчаткава*, жал. нож і серп, фрагменты ганчарнага посуду эпохі Кіеўскай Русі. Захоўваюцца калекцыі манет і скарбаў Рускай дзяржавы 16—20 ст., Рэчы Паспалітай, Вял. кн. Літоўскага, сав. манеты.

*А. А. Седзін.*

**БАБРУ́ЙСКІЯ ГАРАДСКІ́Я ЎМАЦАВА́ННІ**, комплекс драўляна-земляных умацаванняў у выглядзе абарончага вала, драўляных сцен, паркана і вежаў, якія абаранялі кварталы Бабруйска ў 14—18 ст. Агульная даўжыня лініі ўмацаванняў больш за 3 км. Уяўлялі сабой трохвугольнік, утвораны рэкамі Бярэзіна, Бабруйка і ручаём Дняпрэц. з 3 умацаванні дадаткова прыкры-

вaў вял. стаў, утвораны спец. плацінай вадзянога млына на р. Бабруйка. Уезд і выезд з горада ажыццяўляўся праз 4 брамы. На Пд, унізе пад Замкавай гарой, знаходзілася Падольная брама, якая вяла на бераг Бярэзіны да паромнай пераправы і далей у Магілёў. Вышэй па цячэнні Бярэзіны на адлегласці 26 шнуроў (1274 м) стаяла Свіслацкая брама, якая выходзіла на дарогу ў Свіслач (цяпер вёска ў Асіповіцкім р-не). У паўн.-зах. частцы Бабруйска размяшчалася Кісялёўская брама. Чацвёртая брама — Прудовая — адкрывала дарогу праз плаціну на Бабруйцы да зарэчных гар. валок з гародамі, сенажацямі і садамі. Гараджане разам з выбранымі ад воласці сялянамі неслі ў гар. брамах начную варту ад «свавольных людзей», на ўвесь тыдзень выдзялялі «на галашэнне» спец. групу «старажоў-клікуноў», якія «клікалі», каб усе былі ўважлівыя да агню. Каб прадухіліць непажаданыя нечаканасці як «от своих своволъных куп людей, так и от постороннего (упаси Боже!) неприятеля, прыкладом иншых местечек» мяшчане ставілі ўпоперак гар. вуліц «кабыліны», якімі запіраўся свабодны рух. Колькасць вежаў, што стаялі ў лініі гар. абароны, дакладна невядома, але, улічваючы перыметр ахоўных збудаванняў, можна меркаваць, што іх было каля 10. На гравюры 17 ст. паказана, што яны былі 2-павярховыя 4—6-гранныя ў плане. Драўляныя брамы Бабруйска таксама мелі абламы, увянчаныя шпілямі з флюгерамі-ветранікамі. Сцены-гародні мелі байніцы для стральбы з агнястрэльнай зброі. Гэтыя ўмацаванні перажылі 2 татарскія аблогі ў 1502 і 1503, а таксама неаднаразовыя прыступы ў 1506 войска князя М. Глінскага. У 1649 яны значна пацярпелі ў час аблогі і штурму Бабруйска атрадамі гетмана Я. Радзівіла. У сакавіку 1655 украінскія казакі наказнога гетмана І. Залатарэнкі захапілі Бабруйск і Каралеўскую слабаду і... «без остатку спалили, чтоб впредь не было причом держатися врагом и недругом... царского величества», усіх уцалелых абаронцаў пусцілі «под меч». У 1665 гар. ўмацаванні зноў штурмавалі ўкраінскія казакі, былі разбураны дашчэнту, аднак іх хутка адбудавалі.

Паводле інвентароў горада 1671 і 1684, сцены, вежы і брамы знаходзіліся ў спраўным стане. Як сведчаць гіст. дакументы, усімі ваенна-буд. работамі ў Бабруйску кіраваў падвойскі, на ім ляжаў таксама абавязак ведаць «старажоўшчынай» у замку і па гар. брамах і «обычным в тех краях глашеньем». Падобныя функцыі выконвалі і валасныя старцы, якія кіравалі сялянамі воласці ў час догляду паркана і «часу вселякіх гвалтов и небеспечности». Разбурэнні Б. г. у. пачаліся з канца 17 ст., яны зніклі пасля ўключэння Бабруйска ў склад Расійскай імперыі ў 1793.

*Літ.:* 14, 19, 231. *М. А. Ткачоў.*

**БАГАМОЛЬНІКАЎ** Уладзімір Уладзіміравіч (23.4.1941, Гомель — 6.9.1992), беларускі археолаг. Канд. гіст. навук (1989). Скончыў Гомельскі ун-т (1974). З 1977 выкладчык Гомельскага ун-та. Даследаваў граніцы рассялення радзімічаў і іх суседзяў. Распрацаваў тыпалагічную класіфікацыю радзіміцкага пахавальнага абрада і храналогію радзіміцкіх старажытнасцей, выявіў асаблівасці адзення радзімічаў. Вёў раскопкі старaж. курганоў *Дзяніскавічы, Курганне* (Жлобінскі р-н), *Нісімкавічы*, Хізава, у г. Чачэрску і інш. Вывучаў гісторыю ўсходнеславянскіх летапісных плямён на тэр. Беларусі, іх грамадскі лад.



**У. У. Багамольнікаў.**



Сярэбраныя драцяныя скроневыя кольцы (1), жалезная сякера з адбіткамі льняной тканіны (2), білонная падкавападобная засцежка (3), віты сярэбраны бранзалет (4) з курганнага могільніка **Багрынава.**

*Тв.:* Пахавальны абрад радзімічаў // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1977. № 1; Радзіміцкія скроневыя кольцы // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1977. № 4; Причины изменений погребального обряда радимичей // Древности Белоруссии и Литвы. Мн., 1982; Археологические памятники Гомельщины. Мн., 1988 (разам з А. А. Макушнікавым). *Г. В. Штыхаў.*

**БАГРЫНАВА,** група археал. помнікаў каля в. Багрынава Талачынскага р-на. Абследавалі ў 1893 Е. Р. Раманаў, у 1930 А. Дз. Каваленя, у 1955 Л. В. Аляксееў, у 1967 і 1969 М. Сяргеева, у 1972 А. Р. Мітрафанаў, у 1981, 1988 В. М. Ляўко, у 1990 Ляўко даследавала гарадзішча і замчышча.

Гарадзішча. За 0,5 км на Пн ад вёскі. Часткова знішчана кар'ерам. Памеры часткі, што захавалася, 20×8 м. Культурны пласт 0,5—0,7 м. Знойдзены фрагменты ляпной і ганчарнай керамікі.

У раскопе пл. 52 м² прасочана канструкцыя валоў, якія моцна аплылі і па краях пляцоўкі амаль не прыкметныя. У профілі валоў прасочваюцца ў выглядзе кратаў драўляныя канструкцыі з 3 ярусаў абпаленых бярвён дыям. 10—12 см. Праслойкі з бярвеннем размешчаны адна пад адной на глыб. да 0,5 м. Ніжняя праслойка знаходзіцца ад дзённай паверхні на адлегласці 1,8 м. Ляпная кераміка і збудаванне вала адносяцца да 6—8 ст. Ганчарная кераміка датуецца 16—17 ст.

Замчышча. На У ад гарадзішча, на высокім мысе. З Пн і У да яго прымыкае кар'ер, з Пд і З абмежаваны ярамі з стромкімі схіламі. На ўсх. схіле тэраса шыр. 4 м і роў глыб. да 5 м, шыр. 5—7 м. З боку р. Іржэўкі мыс выш. 15—18 м. Пляцоўка памерам 40×23 м з паўн. боку сапсавана вял. ямай. У раскопах пл. 40 м² культурны пласт складаецца з верхняга (1,25—1,2 м) і ніжняга гарызонтаў.

У верхнім гарызонце выяўлены ганчарная кераміка 14—17 ст., кафля 17 ст., цэгла-пальчатка, абпаленыя камяні. Рэшткі пабудоў з дрэва і цэглы прасочаны ў шурфе па-за межамі замчышча, тут выяўлены цэгла-пальчатка і гзымсавая кафля з выявαю арла. На думку даследчыкаў, на месцы гарадзішча жалезнага веку ў феад. час узнікла сядзіба, а на месцы мыса мог размяшчацца ўмацаваны замак князёў Друцкіх-Багрынаўскіх, якія згадваюцца ў пісьмовых крыніцах 15—16 ст.

Курганны могільнік крывічоў. Абапал дарогі на в. Варанцэвічы. 6 насыпаў (раней было 12) вышынёй 1,5—2 м, дыяметрам 10—12 м. У 1967 З. М. Сяргеева раскапала 4 курганы. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце. Знойдзены бранзалетападобныя скроневыя кольцы з пазалочанымі шклянымі і сердалікавымі прызматычнымі пацеркамі.

У 1969 яна даследавала яшчэ 2 насыпы. У адным былі мужчынскае і жаночае пахаванні галавою на З, знoй-

дзены 6 скроневых кольцаў з сярэбранага дроту, 4 арабскія дырхемы дынастыі Саманідаў з адтулінамі для падвешвання, пацеркі, бронзавы пласціністы пярсцёнак, жал. нож, віты сярэбраны бранзалет з завязанымі канцамі, жал. абруч і дужка ад драўлянага вядра, білонавая падковападобная фібула, баявая сякера, невял. бронзавы пласціністы бранзалет з канцамі ў выглядзе звярыных галовак, 2 пасудзіны. У другім кургане было 3 пахаванні ў насыпе, на мацерыку, на пясчанай падсыпцы. Могільнік датуецца 11 ст.

*Літ.:* 34, 1085, 1089. *В. М. Ляўко.*

**БАГУШЭ́ВІЧЫ,** гарадзішча 1 ст. да н. э.— 2 ст. н. э. ў цэнтры в. Багушэвічы Бярэзінскага р-на. На левым беразе р. Уса, ва ўрочышчы Касцельная Гара (Касцелішча). Вядома з 1927, даследаваў у 1964—65 Л. Д. Побаль, у 1979 абследавала Т. С. Бубенька. Пляцоўка памерам 60×50 м, з боку поля ўмацавана 3 валамі (выш. 1,5—2 м) і 3 равамі (глыб. 0,5—1,8 м). У зах. частцы пляцоўкі касцёл пабудаваны ў сярэдзіне 19 ст. У паўднёвай — пахаванні канца 19 ст., усх. частка зрыта на шыр. 5—6 м і разбурана пры пабудове сядзіб. Культурны пласт 0,6—1 м. Знойдзены вырабы з крэменю, жалеза (тыглі, шлак, скроневае кольца, праспіца, каменная зерняцёрка), ляпная кераміка мілаградскай і зарубінецкай культур, часткова пакрытая штрыхамі.

*Літ.:* 904. *Т. С. Бубенька.*

**БАЖНІ́ЦА,** культавая пабудова. Значэнне тэрміна «Б.» ў розныя часы мянялася. У літаратурнай мове перыяду Кіеўскай Русі Б. называлі царкву або капліцу, а таксама паліцу з абразамі ў хаце. У старабел. і польскай мовах слова «Б.» мела значэнні: храм наогул, язычніцкі храм, іудаісцкі храм. У польскай мове пазней апошняе значэнне стала пераважаць. Хутчэй за ўсё ад крывічоў тэрмін «Б.» трапіў у латышскую і літоўскую мовы. Верагодна, у часы ўвядзення хрысціянства Б. называлі паганскія (нехрысціянскія) храмы закрытага тыпу (будынкі) у адрозненне ад *капішчаў* і трэбішчаў (гл. *Ахвярнік*), размешчаных пад адкрытым небам. Такія пабудаваныя з дрэва храмы зафіксаваны ням. аўтарамі ранняга сярэднявечча ў палабскіх і паморскіх славян.

Некаторае ўяўленне пра язычніцкія Б. на тэр. Беларусі дае вусная нар. творчасць. В. Ю. Ластоўскі прыводзіць звесткі пра гарадзішча на востраве воз. Богінскае ў Браслаўскім р-не, дзе яшчэ ў 19 ст. «трымаўся высокі капец, у сярэдзіне якога была старой веры бажніца з адзіным аконцам, праз якое прамень сонца ў сярэдзіну падаў толькі роўна ў поўдзень». Пазней гэта Б. разбурана. На гэтым жа востраве знойдзены каменны ідал. Паводле нар. падання, некалькі язычніцкіх Б. знаходзіліся ў в. Лоск Валожынскага р-на.

Археал. даследаванні паганскіх Б. на Беларусі пакуль не праводзіліся. Каля г. Почап Бранскай вобл. на селішчы зарубінецкай культуры даследавана круглая ў плане культавая пабудова дыям. 5 м. На думку Б. А. Рыбакова, у ёй праводзілася рытуальная цырымонія варкі першых пладоў новага ўраджаю, свяшчэнны посуд для якой захоўваўся ў размешчанай побач зямлянцы. Унутры круглага свяцілішча круглае глінабітнае збудаванне ўмацавана ў ніжняй частцы слупамі, гліна абпалена. Верагодна, гэта было агнішча-ахвярнік. Каля яго, бліжэй да ўвахода, прыкметныя сляды слупоў і масіўныя рэшткі абгарэлага дрэва, напэўна, ад ідала. Налева і направа ад ахвярніка-агнішча і цэнтр. ідала былі 2 вял. нішы, каля якіх па акружнасці будынка стаялі слупы, відавочна, меншыя ідалы. Паводле рэканструкцыі, праведзенай Рыбаковым, уверсе, у цэнтрыканічнага даху, была вял. адтуліна для выхаду дыму і агню, якая адначасова служыла для асвятлення Б. зверху дзённым святлом. Сярод рэчаў знойдзена егіпецкая пячатка 1—3 ст. н. э. з выявай ляжачага льва з блакітнай пасты.

*Літ.:* 1015. *Э. М. Зайкоўскі.*

**БАЙНІ́ЦА,** спецыяльна абсталяванае месца (пазіцыя, адтуліна) для стрэльбы ў мурах і абарончых вежах, валах, равах, дотах і дзотах. Бываюць Б. адкрытыя — паміж зубцамі муроў або вежаў і закрытыя — праёмы ў сценах або мурах, перакрытыя зверху. Адтуліна Б., што выходзіць на фасад абарончых збудаванняў, прызначаная для агню з кулямётаў і гармат, наз. амбразурай. Першыя Б. ў мураваных абарончых пабудовах на Беларусі вядомы з 2-й пал. 13 ст. *(Камянецкая вежа),* пашырыліся ў 14 ст. *(Лідскі замак).* Яны былі прыстасаваны для стральбы пераважна з *лукаў* і *арбалетаў.* Іх амбразуры мелі прамавугольную, трапецападобную або паўцыркульную форму. У 15—16 ст. будаваліся вялізныя Б. «ніжняга і верхняга бою». Звычайна форма іх амбразур паўцыркульная, радзей прамавугольная *(Мірскі замак, Гродзенскі Стары замак).* У 16—17 ст., калі на Беларусі шырока выкарыстоўваліся ручная агнястрэльная зброя (рушніцы, аркебузы, мушкеты) і лёгкія гарматы, Б. прыстасоўваліся да гэтай зброі. Іх амбразуры набывалі круглаватую форму, а ў 17 ст. і форму фігуры, утворанай з круга — асновы амбразуры Б. і прамавугольніка, пастаўленага на яго карацейшым бокам (замак у Любчы, касцёл у Камаях Пастаўскага р-на, брыгіцкі кляштар у Гродне). У 16—17 ст. на валах земляных умацаванняў часта Б. рабілі з лазовых кашоў, набітых зямлёю.

*Літ.:* 95. *А. А. Трусаў.*

**БАКІ́НІЧЫ,** стаянка эпохі неаліту каля в. Бакінічы Пінскага р-на. За 500 м на ПдУ ад вёскі, на пясчаным узгорку правага берага р. Бобрык. Даўж. пляцоўкі каля 150 м. Выявіў у 1964 і даследаваў у 1965—67, 1987—88 У. Ф. Ісаенка. Культурны пласт 0,3 м. Выяўлены ранненеалітычныя (5—4-е тысячагоддзі да н. э.), сякерападобныя, пласціністыя прылады працы з крэменю, абломкі 10—12 гаршкоў з дамешкамі ў гліне раслін, жарствы, тоўчаных ракавін і познанеалітычныя (3-е тысячагоддзе да н. э.) знаходкі, характэрныя для *нёманскай культуры.*

*Літ.:* 460.

**БАЛІ́НСКІ** Міхаіл Ігнатавіч [14.8.1794, маёнтак Цярэспаль Полацкага пав.— 22.12.1863(3.1.1864)], гісторык, музеязнавец, археолаг, дзеяч асветы. Скончыў Віленскі ун-т (1818). Магістр філасофіі (1815). Чл. Таварыства шубраўцаў, супрацоўнік і адзін з рэдактараў яго органа газ. «Wiadomości brukowe» («Вулічныя паведамленні»). З 1816 рэдактар «Tygodnika Wileńskiego» («Віленскага штотыднёвіка»). Супрацоўнік і сакратар Віленскага друкарскага т-ва (1818—22). За ўдзел у падрыхтоўцы паўстання 1830—31 арыштаваны. У 1836 пераехаў у Варшаву, дзе займаўся навук. і літаратурнай працай. Адзін з заснавальнікаў навук.-літаратурнага час. «Biblioteka Warszawska» («Варшаўская бібліятэка»). У 1847 вярнуўся ў свой маёнтак Яшуны каля Вільні, даследаваў там археал. помнікі. З 1856 супрацоўнік *Віленскага музея старажытнасцей,* чл. Рускага геаграфічнага т-ва, у 1861—62 віцэ-старшыня *Віленскай археалагічнай камісіі.* Разам з Т. Ліпінскім выдаў працу «Старажытная Польшча...» (т. 1—3, 1843—46), апошні том якой прысвечаны гісторыі мясцін і населеных пунктаў Вял. кн. Літоўскага, асабліва абарончым збудаванням. Выявіў і зафіксаваў шматлікія гарадзішчы, курганы, замчышчы. Упершыню апісаў старажытнасці Лоска (Валожынскі р-н), Крэва (Смаргонскі р-н), Ружан (Пружанскі р-н), Смаргоні, Маладзечна, Мядзела, Навагрудка, Ляхавіч, Слуцка, Быхава, Пінска, Гродна і інш. Выявіў і апісаў рэшткі тоўстых сцен замка на астравах воз. Мястра, датаваў 12 ст. закладку Ніжняга замка ў Полацку. Аўтар прац пра Вільню і Віленскі ун-т.

*Літ.:* 513. *Г. А. Каханоўскі.*

**БА́ЛТЫ,** група індаеўрапейскіх плямён і народаў, якія гавораць ці гаварылі на балтыйскіх мовах або іх дыялектах (літоўцы, латышы, прусы, яцвягі, куршы, земгалы, селы). Упершыню тэрмін «балты» ўвёў ням. вучоны Г. Ф. Несельман у 1845. Фарміраванне Б. адбывалася ў эпоху неаліту (3—2-е тысячагоддзі да н. э.), калі носьбіты *шнуравой керамікі культур* пра-

нікалі ў Сярэднюю і Паўн. Еўропу і асімілявалі мясц. насельніцтва. Арэал пашырэння Б. ахопліваў бас. Віслы, Нёмана, Зах. Дзвіны, Верхняга Падняпроўя, вярхоўі Волгі і Акі. У раннім жал. веку (7 ст. да н. э.— 4 ст. н. э.) Б. на Пд і ПдУ межавалі са скіфамі, сарматамі і плямёнамі *зарубінецкай культуры*, на Пн і ПнУ іх суседзямі былі фіна-угорскія плямёны, на З — славяне і германцы. У пісьмовых крыніцах Б. ўпершыню згадваюцца Тацытам (1 ст. н. э.) у сувязі з промыслам бурштыну. Пталамей (2 ст. н. э.) указваў на этнічнае чляненне плямён Балтыйскага ўзбярэжжа і сумежных тэрыторый (венеды, вельты, айсты, карбоны, карыёты, селы, гелоны і інш.). У скандынаўскіх хроніках 9 ст. называюцца куршы, земгалы, прусы, у стараж.-рус. летапісах (11 ст.) — куршы, латгалы, прусы, яцвягі, пазней (12 ст.) — літва, жмудзь і інш. На тэр. Беларусі балтам належалі *днепра-дзвінская культура, штрыхаванай керамікі культура*, і магчыма, *мілаградская культура.* Старажытнасці больш позняга часу (5—7 ст.) на гэтай тэр. ў сваёй аснове былі таксама балцкімі, але ўжо са слав. уплывам. Вядучую ролю ў эканоміцы Б. доўгі час адыгрывала паляванне і рыбалоўства. З удасканаленнем прылад вытворчасці, што было выклікана шырокім выкарыстаннем жалеза, вядучай галіной гаспадаркі паступова станавілася земляробства. Асноўным тыпам пасяленняў Б. былі ўмацаваныя паселішчы — *гарадзішчы*, якія з развіццём земляробства змяняліся адкрытымі *селішчамі* — вёскамі, дзе жылі некалькі вялікіх, а потым і малых сямей. Тагачасныя Б. падзяляліся на заходніх, усходніх і дняпроўскіх. Да заходніх адносіліся пруса-яцвяжскія плямёны (прусы, яцвягі, куршы, наліндзы, скальвы), да ўсходніх — летаЛітоўскія (літва, аўкштайты, жэмайты, латгалы, земгалы і інш.). Вычляненне дняпроўскіх Б. можна правесці толькі археалагічна (юханаўская, верхняокская культуры і ўсх. частка днепра-дзвінскай культуры). Адзіным рэліктам, які тут захаваўся ў 9—12 ст., было летапіснае племя голядзь. Паводле даных тапанімікі і археалогіі на тэр. Беларусі пражывалі продкі балцкіх плямён літвы, лотвы, латыгалі, яцвягаў і інш. У 2-й пал. 1-га тысячагоддзя н. э. славяне, якія рухаліся з Пд на Пн па Дняпры, адрэзалі дняпроўскіх і часткова ўсходніх Б. і амаль поўнасцю асімілявалі іх. Выцесненыя ў рэгіён Прыбалтыкі, Б. прынялі ўдзел у фарміраванні этнічных літоўцаў і латышоў. На тэр. Беларусі асіміляцыя Б. працягвалася да 12—13 ст. і пазней. Частка іх была выцеснена на ПнЗ, частка знішчана, але значная колькасць засталася жыць на сваіх месцах, як астраўкі сярод слав. асяроддзя. З цягам часу славянізаваныя нашчадкі Б. усё больш зліваліся з новымі патокамі славян, што садзейнічала фарміраванню этнічнай спецыфікі зах. груп усх.-слав. насельніцтва 9—13 ст., з якіх склалася беларуская народнасць.

*Літ.:* 725, 785, 803, 1051, 1063, 1211, 1313. *В. І. Шадыра.*

**БА́ЛЯ-СО́ЛЬНАЯ,** стаянкі каменнага і бронзавага вякоў каля в. Баля-Сольная Гродзенскага р-на. Выявіў і абследаваў у 1972, 1975 М. М. Чарняўскі.

Стаянка-1. На паўн.-ўсх. ускраіне вёскі, на кліне 4-метровай поймы паміж левабярэжнай поймай Нёмана і левым берагам ручая. Памеры 10×30 м. Культурны пласт да 0,4 м. Знойдзены крамянёвыя прылады працы і фрагменты керамікі бронзавага веку, крыху ніжэй стаянкі пры паглыбленні рэчышча — каменная свідраваная сякера.



Каменная свідраваная сякера, знойдзеная паблізу стаянкі-1 **Баля-Сольная**.

Стаянка-2 фінальнапалеалітычнага і мезалітычнага часоў. У вёсцы, на кліне 9-метровай тэрасы паміж левабярэжнай тэрасай Нёмана і правым берагам ручая. Памеры 50×150 м. Месцамі захаваўся культурны пласт да 0,3—0,4 м. Знойдзены крамянёвыя скрабкі, клінападобныя разцы, скоблі, пракалкі, архаічныя сякучыя прылады, аднапляцовачныя нуклеусы.

У вёсцы, уздоўж краю левабярэжнай тэрасы Нёмана (выш. 6,5 м) уверх на 200 м па яго цячэнні, захаваліся рэшткі стаянкі каменнага веку. *М.М. Чарняўскі.*

**БАНДА́РНЫЯ ВЫ́РАБЫ,** драўляныя ёмістасці з бандарак (клёпак) для захавання і транспарціроўкі вадкіх і сыпучых рэчываў. Рэшткі бандарнага посуду часта сустракаюцца пры раскопках усх.-слав. гарадоў. Знойдзены днішчы, бандаркі, накрыўкі, жал. вядзёрныя дужкі, абручы і вушкі.



Бандарныя вырабы (бандаркі, днішчы, накрыўкі) 12—14 ст. з Віцебска.

Паводле формы, памераў і матэрыялу знаходак можна меркаваць пра разнастайнасць Б. в. у гарадах Беларусі 12—16 ст. Хваёвыя днішчы дыям. 50 см былі ў вадавозных бочках, дыям. 30—40 см — у пукатых вышынёй 45—52 см. Яловыя днішчы, як найбольш вільгацеўстойлівыя, дыям. 28—29 см ставілі ў даёнкі і бойкі, дубовыя дыям. 42—47 см.— у 10-вядзёрныя бочкі, якія выкарыстоўвалі на квашанне, саленні, для захоўвання моцнага пітва. Днішчы меншых памераў былі ў бочачках, біклагах, у якіх пераносілі ваду, квас, гарэлку. У Бярэсці знойдзена біклага 13 ст. Авальныя днішчы памерамі 33—35×43—50 см рабілі ў цэбрах, балеях, ражках. Днішчы таўшч. 4,5—6,5 см з роўна абчасанымі краямі былі ў ліповак — посуду для захавання мёду. Такі посуд выдзёўбвалі з тоўстай калоды, у аснову якой устаўлялі масіўнае дно. Накрыўкі па форме не адрозніваліся ад днішчаў, але былі менш тоўстыя (0,5—1 см). Бандаркі вял. памераў выраблялі для бочак, меншых — для бочачак, кубельцаў, цэбраў, яшчэ меншых (да 28 см) — да вёдраў (дыям. унізе 25—

28 см, уверсе 22—23,5 см). Каля вусця вядра ў бандаркі ўбівалі жал. вушкі, за якія чаплялася жал. дужка. Каркас бочкі або вядра мацавалі лазовымі ці жалезнымі (Бярэсце, Слуцк) абручамі.

Паводле раскопак некаторых гарадоў вядомы малапамерны сталовы бандарны посуд выш. 10—15 см: кубкі, чашкі і інш. У Бярэсці сабрана 250 днішчаў і 120 бандарак, на Верхнім замку Віцебска іх знойдзена адпаведна 138 і 43. Рэшткі Б. в. выяўлены пры раскопках Полацка, Мінска, Гродна, Слоніма, Пінска, Давыд-Гарадка, Слуцка і інш.

*Літ.:* 206, 385, 424, 486, 702, 703, 1347. *Л. У. Калядзінскі.*




**Бандарныя вырабы** (бандаркі, днішчы, накрыўкі) 12—14 ст. з Віцебска.

**БАНІСТЫКА** (франц. bonistique), дапаможная гіст. дысцыпліна, якая вывучае гісторыю папяровых грашовых знакаў і *бонаў*, іх ролю ў грашовым абарачэнні дзяржавы. Упершыню папяровыя грошы паявіліся ў Кітаі ў 650. Абарачэнне папяровых грошай узрасло з развіццём капіталістычных адносін і дэманетызацыяй серабра і золата. Да сярэдзіны 19 ст. банкаўскія білеты выпускалі ў выглядзе бестэрміновага вэксаля прыватных банкаў у буйных купюрах, якія прад'яўніку аплочвалі золатам і серабром. Першыя банкноты выпушчаны ў 1690 у штаце Масачусетс (ЗША), у 1762 — банкацэтлі ў Аўстрыі, у 1790 — асігнаты ў Францыі, у 1794 — злотыя ў Рэчы Паспалітай і інш. У Расіі эмісія дзярж. асігнацый пачалася ў 1769. У 1843 яны заменены крэдытнымі білетамі. Наладжваўся выпуск буйных і дробных *наміналаў* (1, 3, 5, 10, 25, 50, 100 руб., пры Мікалаю II і 500 руб.). Царства Польскае (у 1824—57) і Вял. кн. Фінляндскае (да 1917) мелі свае нац. эмісіі. Першая сусветная вайна прымусіла паявілічыць выпуск папяровых грошай для пакрыцця бюджэтнага дэфіцыту: да 1916 спынены размен банкнотаў на манеты і выпушчаны папяровыя казначэйскія знакі ў 1, 2, 3, 5, 10, 20, 50 капеек, а таксама паштовыя маркі з надрукоўкай на зваротным або правым баку. Часовы ўрад у 1917 выпускаў дзярж. крэдытныя білеты наміналам 250 і 1000 руб. і «керанкі» ў 20 і 40 руб. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі дэкрэтам ад 27.12.1917 усе камерцыйныя банкі і банкаўскія канторы былі нацыяналізаваны, утвораны Народны банк РСФСР. Грамадзянская вайна і ваенная інтэрвенцыя перашкодзілі правядзенню грашовай рэформы і ўмацаванню грашовага абарачэння. У абарачэнні былі «раманаўскія», або «мікалаеўскія», банкноты, «керанкі», узаконена было выкарыстанне аблігацый дзярж. пазыкі і іх купонаў. Кааператывы і прадпрыемствы выпускалі свае боны, чэкі і талоны. З заканчэннем грамадзянскай вайны з ужытку знікалі мясц. эмісіі і пачалі распаўсюджвацца першыя сав. грошы — разліковыя знакі РСФСР узору 1919 (саўзнак), якія паступова занялі пануючае становішча.

У выніку грашовай рэформы 1922—24 у абарачэнне ўвайшлі медныя і сярэбраныя манеты, казначэйскія білеты ў 1, 3, 5 руб. і 1 чырвонец (10 руб.), спынены выпуск саўзнакаў. У 1936 курс рубля адпавядаў 3 франкам, у 1937 — 5,3 руб.=1 долару. Для пакрыцця страт у Вял. Айчыннай вайне эмісія папяровых грошай была павялічана. Гэта выклікала іх дэнальвацыю. Для ліквідацыі яе ў 1947 была праведзена грашовая рэформа, якая павялічыла пакупную здольнасць рубля. Структура грашовай масы (казначэйскія і банкаўскія білеты, разменная манета) захавалася, банкаўскія білеты выпускалі не ў чырвонцах, а ў рублях. 1.3.1950 курс рубля пераведзены на залатую аснову і адпавядаў 0,222168 г чыстага золата (4 руб.=1 долару). Хуткі рост грамадскай вытворчасці прывёў да вылічэння дзяржбюджэту, нац. даходу і інш. у мільярдах і трыльёнах, таму з 1.1.1961 праведзена рэформа павышэння маштаба цэн у 10 разоў. Залатое ўтрыманне рубля ўзрасло ў 4,4 раза і адпавядала 0,987412 г чыстага золата. Абарачэнне папяровых грошай на Беларусі з часоў яе ўваходжання ў склад Расійскай імперыі (1772, 1793, 1795) было аналагічным Расіі, а потым СССР. Абарачаліся боны, чэкі, квітанцыі, талоны, купоны, аблігацыі з надпячаткамі. У 1917—19 іх выпускалі ў Бабруйску, Гомелі, мяст. Калышкі (Лёзненскі р-н), Лідзе, Магілёве, Мазыры, Мінску, Пінску, Рагачове, Слуцку, Чэрвені. У 1916—18 на тэр. Беларусі, акупіраванай кайзераўскімі войскамі, у абарачэнні былі рэйхсбанкноты 1903—18 наміналам 20, 50, 100 і 1000 марак. У Познані ў 1916 выпускалі для акупіраваных тэрыторый остзублі, у Каўнасе ў 1918 — остмаркі. У 1918 грашовыя знакі выпускалі Мазырскі рэвалюцыйны камітэт (на купонах б. царскіх пазык), ваенна-рэвалюцыйны камітэт у Лідзе, у Магілёўскай губерні, Гомельскае гар. самакіраванне і павятовае земства, Рагачоўская гар. управа, Ігуменскі грамадскі банк (1918—19), у 1919 — Слуцкае павятовае земства. У 1918 у Віцебску і наваколлі абарачаліся фінскія маркі, ва ўездах на мяжы з Украінай — укр. карбованцы 1919. У 1920 у акупіраваных Польшчай гарадах карысталіся сваімі грашовымі знакамі: у Гродне — у 5, 10 і 50 марак; у Лагойску — кароткатэрміновымі бонамі Слуцка з наддрукоўкай у 3 і 10 руб. У Зах. Беларусі з 1921 абарачаліся польскія маркі, з лютага 1924 — злотыя, з 1939 — сав. грошы. У Вял. Айчынную вайну на акупіраванай тэр. абарачаліся сав. банкноты, ням. рэйхсмаркі (адна = = 10 руб.) і акупацыйныя знакі, якія выпускалі ў г. Роўна (Украіна). Пасля вайны было аднаўлена сав. грашовае абарачэнне. Б. як дапаможная дысцыпліна на Беларусі напачатку вывучэння.

*Літ.:* 1511, 1535, 1681, 1697. *Ш. І. Бекіннеў.*

**БАНЦАРАЎСКАЯ КУЛЬТУРА**, культура тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны, археал. культура плямён, якія ў 6—8 ст. жылі ў Верхнім Падняпроўі, Верхнім Панямонні, Верхнім і Сярэднім Падзвінні. Назву атрымала ад гарадзішча *Банцараўшчына* пад Мінскам. Насельніцтва займалася

землеробствам, жывёлагадоўляй; паляванне і рыбалоўства мелі дапаможны характар; былі развіты здабыча і апрацоўка жалеза, бронзаліцейная вытворчасць, ганчарства, апрацоўка дрэва, косці і інш. Асноўным тыпам пасяленняў былі адкрытыя селішчы, якія размяшчаліся на пакатых узвышшах у поймах рэк або на мысападобных выступах надпоймавых тэрас. Шмат селішчаў узнікла каля ранніх гарадзішчаў, якія дадаткова ўмацоўваліся землянымі валамі і ператвараліся ў гарадзішчы-сховішчы. Жытлы будаваліся наземныя і паўзямлянкавыя. Паўзямлянкі былі пераважна зрубнай канструкцыі, іх ніжнія вянкі паглыбляліся ў зямлю ад 0,2 да 0,7—0,8 м. Наземныя жытлы мелі слупавую канструкцыю. Сцены рабілі з бярвён таўшч. 0,25—0,3 м. Плошча жытлаў складала ад 7—9 да 18—20 м². Шматкамерная планіроўка жытлаў сведчыла пра захаванне родавых адносін.

Унутры жытлаў, часцей у далёкім ад увахода куце размяшчаліся печы-каменкі круглай або авальнай формы (даўж. 1—1,5 м, шыр. 0,9—0,95 м); радзей у цэнтры жытлаў былі агнішчы — вымасткі з дробных камянёў пад пластом гліны 0,15—0,2 м, круглай або авальнай формы, даўж. 1,9—2,15, шыр. 1,7—2 м. Каля дамоў размяшчаліся ямы-скляпы, верагодна, калектыўнага карыстання. Яны мелі круглую, авальную ці прамавугольную форму (даўж. ад 0,9 да 1,8—1,9 м і шыр. ад 0,9 да 1,6—1,9 м), глыб. ад 0,4—0,5 да 0,8—1 м. Некаторыя ямы мелі амаль вертыкальныя сценкі, большасць з іх у разрэзе чашападобныя. Пахавальны абрад — трупаспаленне на бескурганных і курганных могільніках. Крэмацыя нябожчыкаў адбывалася за межамі некропаляў, пасля чаго ачышчаныя ад кастра косці змяшчаліся ў гліняныя пасудзіны-урны, або ссыпаліся на дно магільных ям.

Курганы па форме падзяляюцца на круглыя, падоўжаныя і доўгія, у іх таксама урнавыя і бязурнавыя пахаванні, змешчаныя на гарызонце, у насыпе або адразу пад дзярновым пакрыццём насыпу. У доўгіх курганах было 2—9 пахаванняў. Пахавальны інвентар вельмі бедны і часцей за ўсё складаецца з цэлых або фрагментаваных пасудзін. Плямёны Б. к. выраблялі слабапрафіляваныя пласкадонныя ляпныя гаршкі.

У гліну дадаваліся жарства і буйназярністы пясок, на поўдні Б. к.— шамот (тоўчаныя чарапкі). Посуд меў крыху адагнуты венчык, слабавыражаную шыйку, моцна апушчаны плячук, злёгку пукатае тулава. Трапляюцца таксама круглабокія, цыліндрычнаканічныя і міскападобныя пасудзіны, у Падзвінні — слоікападобныя. На помніках Б. к. знаходзяць біканічныя гліняныя прасліцы, жал. нажы, сярпы, сякеры, наканечнікі коп'яў, шпоры, падковападобныя фібулы, бронзавыя бранзалеты, падвескі, пярсцёнкі, рэшткі бронзаліцейнай вытворчасці.

Даследчыкі лічаць, што Б. к. сфарміравалася ў выніку пранікнення на Пн тэр. Беларусі носьбітаў культуры тыпу Абідні і змяшання іх з плямёнамі днепра-дзвінскай і штрыхаванай керамікі культур. Большасць даследчыкаў лічаць, што Б. к. належала балтам.

*Літ.:* 785, 847. *А. Р. Мітрафанаў.*

**БАНЦАРАЎШЧЫНА,** гарадзішча каля былой в. Банцараўшчына Мінскага р-на. Размешчана за 2,5 км на ПнУ ад чыг. ст. Ждановічы, на левым беразе р. Свіслач (цяпер вадасховішча Дразды). Пляцоўка авальная, выцягнутая з У на З, памеры 55×35 м. З Пн і ПнЗ умацавана 2 валамі выш. каля 2 м і равамі глыб. 1,5—2 м, шыр. 12—14 м. На ўсх. ускраіне гарадзішча зберагліся рэшткі вала, што закрываў уваход на пляцоўку. Схілы гарадзішча зараслі лесам і кустамі. Выявілі ў 1925 М. М. Улашчык і С. С. Шутаў, даследавалі ў 1926—28 С. А. Дубінскі, у 1948—49 А. Р. Мітрафанаў, у 1982 Г. В. Штыхаў. Ускрыта 245 м². На мацерыку — рэшткі паселішча эпохі бронзы. Культурны пласт ад 0,2 м у цэнтры да 1,8 м па краях пляцоўкі, мае 2 гарызонты. Ніжні (3 ст. да н. э.—4 ст. н. э.) адносіцца да *штрыхаванай керамікі культуры.* Знойдзены жал. сярпы, нажы, шылы, брытвы, наканечнікі коп'яў з 2 шыпамі, жал. і бронзавыя пярсцёнкі, падвескі, фібула з «падвязанай» ножкай, посахападобныя шпількі, драцяное скроневае кольца, гліняныя прасліцы (некаторыя з наразным арнаментам), жал. шлакі, кавалкі ад домніцы, косці свойскай жывёлы. Шматлікая ляпная кераміка храналагічна падзяляецца на раннюю (посуд са штрыхаванай паверхняй ці з арнаментам у выглядзе круглых ямак) і пазнейшую (найб. пашыраны вастрарэберныя гаршкі з «зашчыпамі» па рабры). У верхнім гарызонце (6—8 ст.) выяўлены рэшткі драўляных наземных пабудоў, а таксама «каменныя пляцоўкі» памерамі 1,5×2 м (верагодна, утварыліся ў выніку разбурэння печаў). Паміж камянямі былі скла-



Да арт. **Банцараўская культура.** Кераміка з селішча Дзядзілавічы (1, 6, 9, 12, 13, 18), з селішча Гарадзішча Мядзельскага р-на (2), з селішча Равячка (3, 21), з гарадзішча Банцараўшчына (4, 5, 7, 8, 10, 11, 14—17, 19, 20, 22—26).


Гліняны гаршчок з бескурганнага могільніка **Баравікі.**

дзены косці жывёл, уздоўж краю стаялі або ляжалі разбітыя пасудзіны з апаленым гарохам. На думку Дубінскага, гэта ахвярны комплекс.

Знойдзены прылады працы і ўпрыгожанні: бронзавы арнаментаваны бранзалет з патоўшчанымі канцамі, скручаная з тонкай бронзавай ленты спіралька, лунніца з трыма выступамі ўнізе, да якіх прымацаваны трапецападобныя падвескі, шкляная сіняя пацерка «ў вочкі», тыглі, л'ячка, гліняныя прасліцы з вял. адтулінамі, 20 ляпных гаршкоў, у якіх захаваліся апаленыя зярняты пшаніцы, гароху, проса. Посуд гладкасценны цюльпанападобнай, міскападобнай і слоікападобнай формы, сустракаюцца пасудзіны з рабром пасярэдзіне.

Ад верхняга гарызонту гарадзішча атрымала назву *банцараўская культура.*

*Літ.:* 332, 783, 785. *Г. В. Штыхаў.*

**БАРАВІКІ,** комплекс археал. помнікаў у наваколлі былой в. Баравікі (злілася з Мазыром) Мазырскага р-на.

С е л і ш ч а *мілаградскай культуры.* За 0,5 км на З ад былой вёскі, на паўн. беразе воз. Макавішча, на месцы стаянкі каменнага веку. Знойдзена кераміка бронзавага веку з адбіткамі шнура па краі венчыка і матэрыялы мілаградскай культуры.

Б е с к у р г а н н ы м о г і л ь н і к мілаградскай культуры. За 1 км на

Пн ад левага берага Прыпяці. Выявіў у 1960 мясцовы краязнавец А. П. Гарчанка, даследавалі ў 1964 У. Ф. Ісаенка і Л. Д. Побаль. Пахавальны абрад — трупаспаленне. Знойдзены 3 кругладонныя ляпныя гаршкі і бранзалет, жал. наральнік (не захаваліся).

Стаянка каменнага веку і селішча *зарубінецкай культуры.* За 1,5 км на У ад былой вёскі, на У ад воз. Гусь. Даследаваў у 1961 У. Ф. Ісаенка. Знойдзена кераміка з наляпным валікам.

*Літ.:* 895. *Л. Д. Побаль.*

**БАРАДЗІНО́,** гарадзішча 7—1 ст. да н. э. каля в. Барадзіно Аршанскага р-на. За 1 км ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадок. Пляцоўка памерам 60×50 м. З боку поля ўмацавана 2 валамі і 2 равамі. Унутры вал выш. да 5 м, знешні — да 3 м, равы глыб. да 2,5 м. Выявіў і даследаваў у 1971 Л. Д. Побаль. Культурны пласт 0,25 м, бліжэй да краю — 0,9 м. Знойдзены рэшткі ляпных гладкасценных пасудзін днепра-дзвінскай культуры.

**БАРАНАВІЦКІ КРАЯЗНА́ЎЧЫ МУЗЕ́Й.** Заснаваны ў 1929 як павятовы, з 1940 абласны музей выяўленчага мастацтва. У 1952 адноўлены. Адкрыты 23.2.1953 на базе Слонімскага гісторыка-краязнаўчага музея. Мае больш за 3,6 тыс. археал. экспанатаў (1991). Сярод іх знаходкі на тэр. Баранавіцкага р-на (меч і баявая сякера 11—12 ст., гакаўніца 17 ст., прасліца), рэчы з раскопак *Гарадзішча* (кераміка, наканечнікі стрэл, крэсіва); каля в. Старыя Войкавічы (крамянёвыя прылады працы, ляпная кераміка). У нумізматычнай калекцыі медныя капейкі рус. цара Аляксея Міхайлавіча, соліды літоўскія і польскія, талеры, паўталеры і інш.

**БАРАЦІ́НКА,** штучная назва медных *солідаў* Рэчы Паспалітай 1659—61, 1663—66, уведзеная ў канцы 19 ст. Паходзіць ад імя Ціта Лівія Бараціні (Бураціні), ініцыятара іх выпуску і трымальніка манетных двароў Рэчы Паспалітай у 2-й пал. 17 ст. (гл. *Грашовая рэформа Яна II Казіміра Вазы*). Узнікла ў польскамоўнай нумізматычнай літаратуры сярэдзіны 19 ст. ў форме «boratynek», якая трансфармавалася да канца стагоддзя ў Б. У дакументах 2-й пал. 17 ст. медны солід называўся *шэлегам*, часам з удакладненнем «грубы» з-за адносна тоўстага манетнага кружка або «чырвоны» з-за колеру манетнага металу. Зрэдку сустракаецца назва «boratyńczyk» (барацінчык). На Беларусі Б. літоўскія выпускаў *Брэсцкі манетны двор.*

*Літ.:* 1676, 1752.

**БАРЗДЫНЬ,** курганны могільнік каля в. Барздынь Мінскага р-на. За 400 м на З ад вёскі, на левым беразе Чорнага ручая, што ўпадае ў р. Ісдач. 13 насыпаў выш. 0,5—1,5 м, дыям. 3,5—8 м. Выявіў у 1978 і даследаваў 3 курганы ў 1980 Ю. А. Заяц. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на грунце і ў неглыбокіх падкурганных ямах галавой на З і У. Пахаванні (адзіночнае і парнае) абкружаны агароджамі з камянёў у 1—2 рады і ў 1—2 ярусы, адно пад плоскімі камянямі. Адзін курган пусты, у цэнтры кучай былі складзены камяні. Знойдзены цыліндрычная пазалочаная шкляная пацерка, фрагмент жал. сярпа (у насыпе). Верагодна, могільнік належаў славянізаваным балтам. Датуецца 11 ст.

*Літ.:* 421. *Ю. А. Заяц.*




**Барацінкі** літоўская 1666 (1) і польская 1660 (2) Яна II Казіміра Вазы.



Стаянка **Баркалабава.** Агульны выгляд раскопу.



Стаянка **Баркалабава.**

**БАРКАЛА́БАВА,** група археал. помнікаў каля в. Баркалабава Быхаўскага р-на.

Стаянка ранняга мезаліту (10—8 тыс. гадоў таму назад). За 0,5 км на Пн ад вёскі, на другой надпоймавай тэрасе Дняпра выш. 16 м над летнім меканным узроўнем вады. Выявіў у 1972, абследаваў у 1973, даследаваў у 1988 100 м² плошчы В. Ф. Капыцін. Знаходкі канцэнтраваліся на плошчы памерам 260×50 м уздоўж броўкі тэрасы. Культурны пласт 0,2—0,5 м.



Крамянёвыя наканечнікі стрэл (1—3, 8), скрабкі (4, 5, 7), скобля (9), разцы (6, 10, 13—14), вастрыё (11), сякера (15) са стаянкі **Баркалабава.**

Знойдзены адшчэпы і сколы, адна- і двухпляцовачныя нуклеусы, пласціны і адшчэпы з рэтушшу, тронкавыя наканечнікі стрэл, канцавыя скрабкі з пласцін і пласціністых адшчэпаў, разцы «на вуглу зламанай пласцінкі», вастрыі з пласцін і адшчэпаў, скоблі, прылады з выемкамі і сякеркі з перахватам. Адносіцца да заключнага этапу *свідэрскай культуры*; магчыма, гэта была стаянка-майстэрня.

Гарадзішча ранняга жал. веку і эпохі Кіеўскай Русі. На паўд. ускраіне вёскі, ва ўрочышчы Гарадок, пры ўпадзенні р. Струга ў Дняпро. Пляцоўка падтрохвугольнай формы памерам 95×58 м, узвышаецца над поймай ракі на 13 м, папсавана траншэямі і дотамі часоў Вял. Айчыннай вайны. З паўн. і паўн.-зах. бакоў захаваліся сляды вала і глыбокі, часткова засыпаны роў, на якім прасочваецца ўезд на пляцоўку. Выявіў у 1855 М. В. Без-Карніловіч, абследавалі ў 1928 А. Дз. Каваленя, у 1951 Ю. У. Куха-

рэнка, у 1967 Л. Д. Побаль, у 1988 Капыцін. Культурны пласт да 1 м.

Знойдзены фрагменты грубай ляпной і ганчарнай керамікі, вырабы з крэменю, бронзы і жалеза, косці жывёл. Гарадзішча адносіцца да мілаградскай, зарубінецкай, штрыхаванай керамікі культур і ранняга сярэднявечча. Матэрыялы абследавання сведчаць, што яно ўзнікла на месцы паселішча бронзавага веку.

Селішча. На З ад гарадзішча, уздоўж поймы р. Струга. Пл. каля 1 га. Адкрыў і абследаваў у 1928 Каваленя, абследавалі ў 1951 Кухарэнка, у 1967 Побаль. Знойдзена ляпная гладкасценная кераміка ранняга жал. веку і ганчарная кераміка ранняга сярэднявечча.

*Літ.:* 470, 904. *В. Ф. Капыцін.*

**БАРКІ,** комплекс археал. помнікаў на У ад в. Баркі Полацкага р-на.

Курганны могільнік крывічоў. За 0,8 км ад вёскі. 17 курганоў: адзін доўгі (22×8 м, выш. 2 м), 3 падоўжаныя (7×5 м, выш. 2 м), астатнія круглыя дыям. 8—10 м, выш. 1,5 м. У 1967—71 даследаваў 9 курганоў Г. В. Штыхаў. Пахавальны абрад — трупаспаленне пад насыпам на грунце, у большасці выпадкаў зробленае па-за могільнікам. У шэрагу выпадкаў рэшткі крэмацыі змешчаны ў ямцы, выкапанай у грунце і накрытай гаршком.

У адным круглым кургане выяўлены і перапаленыя косці каня і быка. У круглых і авальных насыпах знойдзены пашкоджаныя агнём упрыгожанні: мініяцюрныя касцяныя качкі, бронзавыя трапецападобныя падвескі, грыўня, бранзалет, спіралькі, шкляныя блакітныя пацеркі, жал. спражкі, а таксама ляпныя гаршкі, глінянае прасліца. Выяўлены жаночыя ўпрыгожанні, пашыраныя ў балтаў і характэрныя для культуры смаленскіх доўгіх курганоў, у т. л. маніста, у якім чаргаваліся шкляныя пацеркі і рады бронзавых спіралек. Доўгі курган быў парожнім (кенатаф). Датуецца 8—9 ст.

Гарадзішча ранняга жал. веку. За 5 км ад в. Баркі (каля былой в. Гліснеўка), на пагорку, выш. 4—5 м. Пляцоўка круглая, дыям. 40 м. Каля асновы гарадзішча ёсць рэшткі невысокага вала і рова. Выявіў у 1967, даследаваў у 1973 Штыхаў. Культурны пласт 0,3 м. Знойдзена ляпная кераміка.

Селішча. За 1,8 км ад вёскі, на беразе р. Дрыса. Плошча каля 2 га. Знойдзена кераміка 11—12 ст. і больш позняга часу.

*Літ.:* 848, 1350. *Г. В. Штыхаў.*

**БАРМІЦА,** дэталь засцерагальнага ўзбраення сярэдневяковага воіна 12—17 ст. Мела выгляд кальчужнага палатна-прывескі, якое прымацоўвалася да шлема-шышака або *місюркі.* Б. прыкрывала патыліцу, шыю, вушы, плечы і лапаткі воіна ад удараў халоднай зброяй.

**БАРОНІКІ,** гарадзішча *днепра-дзвінскай культуры* каля в. Баронікі Віцебскага р-на. Размешчана на беразе р. Лучосы. Пляцоўка авальная памерам 74×42 м, умацавана пазней невысокім валам. Абследаваў у 1956 Л. В. Аляксееў, даследаваў 140 м² плошчы ў 1965, 1972 Г. В. Штыхаў. Культурны пласт у цэнтры пляцоўкі 0,2—0,3 м, з паўн. боку 0,9 м. Выяўлены ямы ад жытлаў слупавой канструкцыі. Знойдзены жал. нож з гарбатай спінкай, 2 каменныя клінападобныя сякеры, глінянае прасліца, жал. сякера скіфскага тыпу, тачыльны брусок, кавалкі глінянага посуду, бронзавая падвеска 5—4 ст. да н. э., скарб з трох драцяных бронзавых скроневых кольцаў 6—7 ст. н. э., якія мелі па 2 трапецападобныя падвескі, ляпная гладкасценная кераміка, зрэдку пакрытая штрыхамі або адбіткамі тэкстылю. У 6—8 ст., магчыма, выкарыстоўвалася як сховішча. Датуецца 5 ст. да н. э.—4—5 ст. н. э.

*Літ.;* 34, 1361. *Г. В. Штыхаў.*



Бронзавыя падвескі (уверсе) і жалезныя спражкі 8—9 ст. з курганнага могільніка **Баркі.**



Касцяныя качкі і іх фрагменты з курганнага могільніка **Баркі.**

**БАРОЎКА,** паселішча ранняга этапу *грэнскай культуры* каля в. Бароўка Быхаўскага р-на, на паўд.-ўсх. ускраіне вёскі, на другой надпоймавай тэрасе Дняпра. Вышыня над летнім меджанным узроўнем вады 18 м. Выявіў і абследаваў у 1973, даследаваў у 1987 В. Ф. Капыцін, раскапана 280 м² пл. Культурны пласт 0,3 м. Уздоўж броўкі тэрасы на пл. памерам 59×170 м выяўлены расшчэплены крэмень у выглядзе невял. скопішчаў.

Знойдзены адшчэпы, пласціны, асколкі, кавалкі разбітага крэменю, канкрэцыі, нуклеусы, іх абломкі і інш., што сведчыць пра існаванне на паселішчы месцаў па першаснай апрацоўцы крэменю, а таксама ўласна тронкавыя і асіметрычна-тронкавыя наканечнікі стрэл, канцавыя скрабкі на адшчэпах і пласцяністых загатоўках, двайныя скрабкі з пласцін, скрабкі-разцы, скраб-



Бронзавае скроневае кольца 5—4 ст. да н. э. з гарадзішча **Баронікі.**



Бронзавая падвеска 5—4 ст. да н. э. з гарадзішча **Баронікі.**

кі-праколкі, скрабкі з выемкамі на краі, бакавыя, вуглавыя і сярэдзінныя разцы, сярэдзінныя і вуглавыя праколкі, рэжучыя і дзюбападобныя вастрыі, вырабы з выемкамі, прылады працы, якімі seклі, і інш. Крамянёвы інвентар паселішча падобны да знаходак на Мезінскай стаянцы (Чарнігаўская вобл.). Датуецца 12—10 тыс. г. таму назад.

*Літ.:* 567, 572, 619. *В. Ф. Капыцін.*

**БАРСУКІ,** гарадзішча *днепра-дзвінскай культуры* каля в. Барсукі Верхнядзвінскага р-на. За 2,5 км на ПдЗ ад вёскі, на правым беразе Зах. Дзвіны, у лесе. Займае ізаляванае ўзвышша. Пляцоўка амаль круглая памерам 36×34 м. Захаваліся 3 кальцавыя (выш. да 2 м), 2 падкowападобныя (выш. 1,5 м) валы, а таксама равы. Па краі пляцоўкі выяўлены яшчэ адзін вал — унутраны. Выявіў і даследаваў 500 м² у 1975—76 і 1981 В. І. Шадыра. Першапачаткова на паселішчы існавала абарончая сцяна з бярвёнаў, іх згарэлыя рэшткі выяўлены разам з керамікай 1-га тысячагоддзя да н. э. Культурны пласт у цэнтры 0,3—0,5 м, бліжэй да краю 0,9—1 м.

Знойдзены каменныя сякеры, бронзавыя ўпрыгожанні, гліняныя пацерка і прасліцы, жал. нажы, шылы, сякера, брытва, ляпныя слабапрафіляваныя і слоікападобныя пасудзіны, тыповыя для днепра-дзвінскай культуры, фрагменты керамікі з шурпатай паверхняй, характэрнай для гарадзішчаў на тэр. Літвы і Латвіі сярэдзіны 1-га тысячагоддзя н. э., а таксама рэшткі посуду *банцараўскай культуры.* Магчыма, у пач. 3-й чвэрці 1-га тысячагоддзя гарадзішча выкарыстоўвалася як сховішча насельніцтвам банцараўскай культуры. Датуецца 4 ст. да н. э.— сярэдзінай 5 ст. н. э.

*Літ.:* 1312а, 1313. *В. І. Шадыра.*

**БАРСУКОВАЯ ГОРКА,** гл. *Палыкавічы.*

**БАРТАЛАМЕЕЎКА,** паселішча *верхнедняпроўскай культуры* і ся-




Крамянёвыя наканечнікі стрэл (1—8, 14), праколкі (9—11, 18, 27), вастрыі (12—13, 30—32), скрабкі (15—17, 22—24, 33), скоблі (19—21), разцы (25—26, 28—29, 34) з паселішча **Бароўка**.




Паселішча **Бароўка**. Агульны выгляд раскопу.

*рэднеднепроўскай культуры* каля в. Барталамееўка Веткаўскага р-на. За 0,3 км на У ад вёскі, ва ўрочышчы Звязда (Выдзьма) на пясчаным узгорку памерам 100×300 м. Выявіла і абследавала ў 1978 А. Г. Калечыц. Культурны пласт да 0,1 м на невял. астанцах. На агаленнях знойдзены крамянёвыя скрабкі, разцы, скрэблі, скоблі, сякеры, цёслы, наканечнікі стрэл і коп'яў, пласціны, адшчэпы, адбойнікі, нуклеусы, фрагменты ляпной керамікі.

**БАРЫСАВЫ КАМЯНІ**, вялізныя валуны з высечанымі на іх 6-канцовымі крыжамі і надпісамі «господи помози рабу своему Борису»;




Гарадзішча **Барсукі**. План.



Крамянёвыя вастры (1—11, 17), разцы (12—14), скоблі (15, 16), нож (18), скрабкі (19—22), рубячыя прылады (23—25) з паселішча **Барталамееўка**.

манументальныя помнікі эпіграфікі 12 ст. на тэр. Беларусі. У народзе гэтыя камяні называюць Барыс, Барыс-Хлебнік, Пісанік, Пісар, Барыс-Глеб, Барысаглебскі і інш. Вядомы 5 Б. к. у рэчышчы Зах. Дзвіны каля в. Падкасцельцы (Полацкі р-н), в. Балоткі (2 шт., Міёрскі р-н), в. Накоўнікі (Міёрскі р-н), г. п. Друя (Браслаўскі р-н). Адзін з Б. к. з в. Балоткі з надпісам «Сулиборь хьрст» выцягнуты з ракі і ў 1887—88 перавезены ў Маскву (захоўваецца ў музеі-запаведніку «Каломенскае»). Б. к. з в. Падкасцельцы ў 1981 перавезены ў Полацк і ўстаноўлены на Верхнім замку побач з Сафійскім саборам (мае 8 м у акружнасці, дауж. крыжа 1,5 м, у верхняй частцы яго манаграма «ХС ника»). Пры ўпадзенні р. Друйка ў Зах. Дзвіну ў рэчышчы захаваўся друйскі Б. к. Два камяні былі ўзарваны ў канцы 1930-х г. з мэтаю барацьбы супраць рэлігіі. Да прыняцця хрысціянства былі язычніцкімі фетышамі. Лічаць, што надпісы і крыжы на іх высечаны ў час вял. голаду ў пач. мая 1128, у дні барысаглебскіх аграрных свят, каб асвяціць стараж. месцы культаў. Імя Барыс звязваюць з полацкім князем Барысам Усяславічам [1127—29]. 2 Б. к. вядомы на сушы: каля в. Высокі Гарадзец Талачынскага р-на (уяўляў сабой амаль квадратную пліту, на якой быў высечаны 8-канцовы крыж і па краях надпіс, называлі яго «Кравец» або «Сцяпан»; у 1936 узарваны, асколкі скарыстаны на будаўніцтве аўтамагістралі Мінск — Масква) і каля в. Дзятлава Аршанскага р-на, (надпіс на ім адносіцца да 1171; гл. *Рагвалодаў камень*).

*Літ.:* 344, 1012, 1075, 1147.

*Л. У. Дучыц.*

**БАРЫСАЎ**, горад, цэнтр Барысаўскага р-на, прыстань на р. Бярэзіна (бас. Дняпра). За 76 км на ПнУ ад Мінска, чыг. станцыя на лініі Мінск — Орша, на аўтадарозе Мінск — Смаленск. Першапачатковае гарадзішча стараж. Б. размяшчалася ў пас. Стара-Барысаў на левым беразе Бярэзіны, узвышалася на 8—10 м над забалочанай поймай ракі. Пляцоўка гарадзішча авальная, памеры 150×80 м, роўная, вал не захаваўся. Участак пл. 1 га аддзелены штучным ровам, за якім на карэнным беразе знаходзіцца селішча пл. 3 га. Уваход на гарадзішча з паўн.-ўсх. боку, побач невял. возера, з якога выцякае ручай, што ўпадае ў Бярэзіну. На карце 1595 прыкладна на гэтым месцы паказана рэчка Барыса. Гарадзішча займае канцавую частку вял. мыса, абмежаванага з У возерам і ручаём, з З — доўгім ярам. Археал. раскопкі ў 1968, 1969, 1971 праводзіў Г. В. Штыхаў, даследавана 224 м² пл. на гарадзішчы і 96 м² на селішчы. Культурны пласт 1 м. Выяўлены рэшткі паўзямлянкавага жытла памерам 2,2×2,2 м, заглыбленага[б] ў мацярык на 0,8 м. У ім былі камяні ад печы-каменкі, 5 шкляных бранзалетаў і абломак шкляного пярсцёнка сіняга колеру, 2 шыферныя праслíцы, жал. сякера, 2 нажы, цвік, замок, касцяны трапецападобны грэбень і інш. Самая важная знаходка — залатое 3-пацеркавае скроневае кольца дыям. злучальнага кальца 2,7 см, масай 4,5 г, упрыгожанае сканню. Сярод знаходак на гарадзішчы 59 шкляных бранзалетаў, 26 шыферных праслíц, наканечнікі стрэл, шпоры, 2 сярпы, каса-гарбуша, восці, 2 бронзавыя арнаментаваныя падковападобныя фібулы ўсходнебалтыйскага тыпу, ганчарная кераміка 12—13 ст.,



**Барысаў камень** у Друі. Рэканструкцыя А. П. Сапунова.



Фотаздымак **Барысава каменя** каля в. Накоўнікі Верхнядзвінскага р-на. 1890-я гады.



Трохпацеркавае залатое скроневае кольца 12—13 ст. з **Барысава**.

трапляюцца пасудзіны полацкага тыпу. На селішчы знойдзены 9 шкляных бранзалетаў, 2 пацеркі, дно шкляной пасудзіны, бразготка з лінейнай прорззю, буйная бронзавая пустацелая зярнёная пацерка, смальтавы кубік сіняга колеру, кераміка, падобная на знаходкі з гарадзішча (на дзяржанні амфары ёсць графіці — літара «В»).

Археал. даследаванні пацвярджаюць думку рус. гісторыка В. М. Тацішчава, які пісаў: «У 1102 Барыс Усяславіч полацкі хадзіў на яцвягаў і, перамогшы іх, вярнуўшыся, паставіў горад Барысаў у сваё імя і людзьмі насяліў». У бел.-літ. летапісах таксама гаворыцца, што горад Барысаў на р. Бярэзіне «вчинил» полацкі князь Барыс. Б. упершыню ўпамінаецца ў Лаўрэнцьеўскім летапісе пад 1127 як горад Полацкай зямлі (княства), калі Б. быў з боем узяты кіеўскім князем Мсціславам Уладзіміравічам. Праз некалькі стагоддзяў Б. быў перанесены за 4 км ад свайго першапачатковага месцазнаходжання. Непадалёку ад вусця р. Сха, левага прытоку р. Бярэзіна, на востраве быў пабудаваны замак пл. 6 га, пра які неаднаразова ўпамінаецца ў дакументах 15—18 ст. Ён меў добрыя драўляныя ўмацаванні: фундамент з роўнасценных зрубаў, запоўненых зямлёй і каменнем, зверху — сцены і вежы. Да яго прымыкаў горад. Даследавалі ў 1928 А. М. Ляўданскі, у 1965 Штыхаў. На замчышчы памерам 300×200 м слядоў вала не выяўлена, знойдзена ганчарная кераміка 16—18 ст. У 19 ст. каля чыг. станцыі ўзнік Нова-Барысаў (частка сучаснага Б.). Паміж Стара-Барысавам і Б. знаходзіцца *Барысаўскі курганны могільнік.*

*Літ.:* 298, 848, 1346. *Г. В. Штыхаў.*

**БАРЫСАЎСКІ ЗАМАК.** Існаваў у 14—18 ст. Узнік у 13 — пач. 14 ст. пасля пераносу горада *Барысава* з першапачатковага месца на 4 км ніжэй па цячэнні р. Бярэзіны. Размяшчаўся на левым яе беразе, каля сутокаў з р. Пралля (Прымля, Алешка), займаў пляцоўку пл. каля 2 га, абкружаную высокім земляным валам з драўлянымі сценамі і вежамі, а таксама ровам, які жывіўся водамі Бярэзіны і Праллі. Паводле звестак польскага гісторыка А. Гваньіні, у 16 ст. замак быў умацаваны вежамі і парканам з гародняў, запоўненых зямлёю і каменнем, каб лепей абараняцца пры артылерыйскім абстрэле і штурме праціўнікам. На час яго аблогі існавала сістэма скрытага водазабеспячэння, замак меў стратэгічнае значэнне, бо кантраляваў суднаходны шлях з бас. Балтыйскага ў Чорнае мора і сухапутны шлях у цэнтр Беларусі. У 1514 Барысаў асаджалі войскі рус. ваявод М. І. і Д. І. Булгакавых «и иные... воеводы с людми», аднак замак ім узяць не ўдалося. У 1519, калі групоўка войск дзевяці маскоўскіх ваявод, рухаючыся ў напрамку Орша — Мінск — Вільня, «...воеваша и плениша Литовскую землю», Б. з. згадваецца ў ліку «повоеванных городов». У 1535 дзесяць рус. ваявод, якія ішлі ад Смаленска, «начаша воевати королёву державу», уключаючы «Борисово». Кожны раз кварталы горада, якія не мелі аўтаномных умацаванняў, паліліся і знішчаліся. У час Лівонскай вайны 1558—83 у замку пастаянна знаходзіўся гарнізон салдат. Некалькі апісанняў замка захавалася з 16 ст. Маскоўскі дзяк Трыфан Карабейнікаў у студзені 1593 пісаў, што ён «древян, невелик, поменшы Дорогобужа, под ним р. Березина, с реку с Одрев, да около пруд, а от городка едучи к Менску, мост древяной, через реку, через пруд, в длину его сажен з 200». А пасол аўстрыйскага імператара Мікалай Варкач 24.8.1593 адзначаў, што паблізу Барысава «даволі вялікі замак, увесь пабудаваны з дрэва». У 1-й пал. 17 ст. замак перабудаваны ў 5-бастыённую фартэцыю, умацаваную вял. ровам з вадою. З У да яго прымыкала «падзамча», якое таксама мела лінію абароны. Паблізу ўмацаванняў знаходзіўся драўляны мост на палях цераз Бярэзіну. У час рус.-польскай вайны 1654—67 каля Б. з. атрад шляхціца К. Паклонскага 10.6.1655 пацярпеў паражэнне ад войск ваяводы Ю. Барацінскага і мусіў адступіць да Мінска. Аднак узяць замак рус. атраду не ўдалося, на дапамогу яму была кінута групоўка войск акольнічага ваяводы Б. М. Хітраво (4159 чал. пяхоты і 1207 коннікаў). Пасля працяглага жорсткага бою 19 чэрвеня замак быў узяты і спалены. Рэшткі гарнізона адступілі на правы бераг Бярэзіны, спаліўшы за сабою мост. 14 верасня цар загадаў ваяводу неадкладна «в Борисове делать город земляной или деревянный, смотря по тамошнему», сцены астрога было загадана рабіць «с обламами». На аднаўленне замка былі накіраваны вял. сілы салдат і рэйтараў рус. арміі, сагнаны сяляне навакольных вёсак. Неўзабаве «острог на Берёзе реке» і мост цераз раку былі спешна адноўлены. Для аховы моста на левым беразе зрабілі «земляной город» — бастыённы шанец. Вайна зацягнулася, і замак пачалі ўмацоўваць грунтоўна. У 1657 ваявода В. Шарамецьеў дакладваў цару, што замак «делан острогом в четыре стены, а меж стен насыпан землёю». Гэта фактычна была аснова земляного вала, на якім пазней паставілі «город рубленой стены» (вежы і сцены). Для скрытай падачы вады зрабілі тайнік да Бярэзіны, на дзядзінцы выкапалі калодзеж, паставілі жылыя і гасп. пабудовы, свірны і інш. У 1658 замак двойчы пераходзіў з рук у рукі і ад гэтага моцна пацярпеў. 29.6.1658 ваявода Ф. Нарбекаў у «адпісцы» цару паведамляў, што ў замку «только земляной вал оставлен деревянным стоячим тыном, а крепостей никаких по городу, ни боёв с города и обороны и очистки городу никакой не было». У 1659 па версе вала пастаўлены хваёвыя тарасы (зрубы) з падвойнымі сценкамі выш. 3,5 аршына і байніцамі з шырокім сектарам абстрэлу. Перад кожнай тарасай на спец. канструкцыі — слупы з перакладзінамі — былі ўскочаны па 3 «каткі» (тоўстыя бярвёны, якія пускалі зверху на праціўніка). Ваявода адзначаў, што каля праезных варот быў адноўлены тайнік да вады. Яго абгарадзілі бярвеннем і прапусцілі «текучую воду из реки Березины, и тот тайник покрыл землёю и утаил и укрепил незнатно и прочно и в приход неприятельской и в осаду в Борисове ратным людям водою нужно николи не будет». На тэр. падзамка насыпалі «выводы» (бастыёны), зрабілі «полати» — падмосткі для стралкоў, паклалі «катки на столбах же и на перекладах... по 3 берна тяжёлых». Для таго, каб злучыць вал замка і падзамка, раздзеленых ровам з вадою, у яго дно ўбілі палі, на якія з брусоў і жалезных «связей» паставілі спец. каркас, што ўтрымліваў астрожную сцяну. Гэтая канструкцыя была больш трывалай і не замінала плыні ракі, якая жывіла абарончы роў. У Б. з. і на падзамку стаяла 145 дамоў і жытніц, тут былі майстэрні, дзе рамантавалі агнястрэльную зброю, у т. л. гарматы. Ваенна-абарончыя работы ў замку вяліся зімой і былі не поўнасцю завершаны. У канцы 1660 — пач. 1661 новы рус. ваявода К. О. Хлопаў прадоўжыў іх. «Рухомые места» гарадавой сцяны паправілі, зрабілі на іх абламы, паглыбілі і расшырылі роў, яго берагі і дно выслалі дзірваном; перад ровам і астрогам паставілі «честик» (драўляныя загародкі), абнавілі тайнік для вады. Павялічылася колькасць гармат: у чэрвені 1660 іх было 21, у пач. 1661 — 41, з іх 5 даставілі з Вільні («4 пищали медных виленских... 1 пищаль дробовая виленская»), быў значны запас пораху (390 пудоў), ядраў, куль, сотні чацверыкоў хлеба. У той час Б. з. з'яўляўся складам і перавалачнай базай для трафейнай зброі і прадуктаў, захопленых і нарыхтаваных рус. войскамі ў гарадах Беларусі і Літвы. Толькі ў канцы 1660 з замка адправілі ў Смаленск і Маскву 73 гарматы («пищалей полковых и затинных»), 252 пуды ручнічнага і гарматнага пораху, 290 пудоў свінцу і мушкетных куль. Адсюль жа вывозілі партыі кваліфікаваных рамеснікаў — «всяких мастеровых людей»

з бел. і літ. гарадоў, фуры з баявымі даспехамі — латамі, шышакамі, халоднай зброяй, заступамі, рыдлёўкамі, з трафейнымі барабанамі, літаўрамі і сцягамі. У час аблогі ў раптоўнага нападу гарнізон замка меў права карыстацца ўсімі звезенымі сюды прыпасамі і правіянтам з хлебных свірнаў, што і было зроблена зімою 1661, калі Б. з. асаджалі атрады Вял. кн. Літоўскага на чале з гетманам С. Чарнецкім. Каб не даць магчымасць па лёдзе падысці да сцен фартэцыі, гарнізон рус. войск пастаянна абколваў лёд у вадзяным рове. Вясною 1661 умацаванні замка зноў рамантавалі: выкапалі абарончы роў глыб. 4, шыр. 7 сажняў, гарадавую сцяну па байніцы абклалі дзёрнам, каб «зажечь было немочно», на падзамку насыпалі бастыёны, паставілі на іх драўляныя сцены з абламамі і байніцамі для верхняга і падэшвенна-гарматнага баёў. У чэрвені 1661 Б. з. пастаянна знаходзіўся ў аблозе. Нешматлікі рус. гарнізон не мог трымаць абарону па ўсім перыметры замка і падзамка, таму ўмацаванні падзамка на дзве трэці былі спалены і знішчаны гар. пасад. Дзякуючы запасам зброі і хлеба замак цэлы год вытрымліваў аблогу атрадаў С. Чарнецкага, В. Валовіча, А. Русецкага і пяхотнага палка П. Сапегі. 9.7.1662 знясілены гарнізон пакінуў замак і адступіў на У.

Барон А. Маерберг, які праз 3 месяцы праязджаў праз Барысаў, адзначаў: «2-га кастрычніка за 120 вёрст ад Магілёва паявіўся перад нашымі вачыма Барысаў. Ён складаецца з 2 крэпасцяў на левым беразе Бярэзіны, воды якой, прымножаныя водамі... рэчкі Схі, цякуць і абкружаюць яго. Пабудоў у ім няма ніякіх, акрамя ўбогага жытла ваяводы з капліцаю... а горад, што прылягае да крэпасцяў, разбураны». Удзельнік польскага пасольства ў Маскве Б. Танер у 1678 запісаў: «Горадам гэтым валодалі масквіцяне дзякуючы зручнасці, прадстаўленай вялікай ракой Бярэзінай, аб чым і цяпер сведчаць бачныя рэшткі сцен і валоў». У канцы 17 ст. Б. з. і падзамак прыведзены ў парадак, і яго бастыённыя ўмацаванні захоўваліся ў добрым стане да канца 18 ст. Да цяперашняга часу захаваліся равы, запоўненыя вадой.

*Літ.:* 214, 746, 837, 942, 1145.
*М. А. Ткачоў.*

**БАРЫСАЎСКІ КРАЯЗНАЎЧЫ МУЗЕЙ.** Заснаваны ў 1946, адкрыты ў 1950. Мае 430 прадметаў археалогіі (1991): каменныя сякеры і кліны з раскопак гарадзішча *Кімія*, фрагменты гліняных пасудзін культуры штрыхаванай керамікі, сярпы, каменныя зерняцёркі, косці жывёл, косці і луска рыб, грузілы для сетак, прадметы ганчарнай справы, сляды здабычы і апрацоўкі жалеза з гарадзішча *Дзядзілавічы*, касцяны грэбень, бронзавая бразготка, пячатка, спражкі, пярсцёнкі, жалезны цвік, шкляныя пацеркі, смальта, шыфернае прасліца і інш. рэчы з раскопак у Стара-Барысаве, крамянёвыя разцы, скоблі, скрабкі, нуклеусы, наканечнікі стрэл, праколкі з мезалітычнай стаянкі *Глівін*. Нумізматычная калекцыя налічвае каля 3 тыс. манет 16—20 ст., у т. л. скарб з-пад в. Хутар Чэрвеньскага р-на (гл. ў арт. *Манетныя скарбы*), скарб рус. медных манет канца 19 — пач. 20 ст. (знойдзены ў 1988), дацкія маркі 1617, патагоны Іспанскіх Нідэрландаў 1624, орты 1625, лёвендаальдэры Злучаных Правінцый 1650—54, рыксдаальдэры Зах. Францыі 1659, палушкі Івана III, грыўні 1770, паўгрошы літоўскія і польскія і інш.

**БАРЫСАЎСКІ КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК.** На паўн.-зах. ускраіне горада, ва ўрочышчы Барок, на ўзвышшы левага берага р. Бярэзіна. Да 1926 у 6 курганных групах былі 204 курганы, захаваліся 2 групы з 70 насыпаў выш. 0,8—2 м (адзін 3 м), дыям. 6—10 м. Даследавалі ў 1892 У. З. Завітневіч, у 1928 А. М. Ляўданскі, у 1971 Г. В. Штыхаў. Раскапана больш за 10 курганоў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне пад насыпам галавой на З, трапляюцца пахаванні ў ямах (адна яма абкладзена дрэвам).

Знойдзены бронзавыя і сярэбраныя пацеркі тыпу дрыгавіцкіх, шматгранныя і круглыя сердалікавыя пацеркі (некаторыя залачоныя і пасярэбраныя, адна хрустальная), бронзавы пласціністы бранзалет, лунніца, пярсцёнкі, крыжыкі, вял. жалезны серп. Могільнік з'яўляўся некропалем страж. Барысава.
*Г. В. Штыхаў.*

**БАРЫСАЎШЧЫНА,** бескурганны могільнік бронзавага веку каля в. Барысаўшчына Глускага р-на. За 2 км на Пд ад вёскі, на левым беразе р. Камарынкі. Выявіў і абследаваў у 1964 Л. Д. Побаль, абследаваў у 1977 В. Ф. Капыцін. У паўн. частцы пясчанай касы, якая выходзіць у пойму ракі, выяўлена пахаванне. Пахавальная яма дыяметрам да 0,5 м запоўнена дробным вуголлем, попелам і кальцынiраванымі касцямі. У верхняй частцы ямы знаходзіліся абломкі шматвалікавай пасудзіны, упрыгожанай лапчастым арнаментам (упершыню знойдзена на тэр. Беларусі). У яме былі таксама 4 крамянёвыя скрабкі, сякера, некалькі адшчэпаў. Пад спаленымі касцямі, на дне ямы на глыбіні 0,5 м ляжалі частка чэрапа чалавека і 2 крамянёвыя нажы. Выяўлены яшчэ 4 месцазнаходжанні спаленых касцей і керамікі эпохі бронзы.

*Літ.:* 464а, 847.
*В. Ф. Капыцін.*

**БАРЫСАЎШЧЫНА,** археал. помнікі каля в. Барысаўшчына Хойніцкага р-на.

Паселішча эпохі неаліту і мезаліту. За 500 м на Пд ад вёскі, на левым беразе р. Віць, на пясчанай выдме. Выявілі ў 1960 У. Ф. Ісаенка і А. П. Гарчанка, даследаваў у 1966 Ісаенка. Культурны пласт 0,3 м. Знойдзены 34 крамянёвыя прылады працы, 240 апрацаваных крамянёў, 35 абломкаў вастрадонных ляпных гаршкоў, меднае долата 3,5 тыс. г. да н. э. (самая страж. металічная прылада на Беларусі).

Гарадзішча ранняга жал. веку. Мясц. назва Акопы. За 2 км на Пд ад вёскі, ва ўрочышчы Палосы. Пляцоўка памерам 120×100 м, умацавана 2 кальцавымі валамі (выш. ўнутранага 0,6—0,8 м, шыр. 14—15 м, выш. вонкавага 1,9—2,1 м, шыр. 16 м) і ровам паміж імі (глыб. каля 1,5 м). Вядома з 1889, абследавалі ў 1963 Ісаенка, у 1976 Т. М. Каробушкіна.




Крамянёвыя наканечнікі (1, 2, 23), разцы (3—6), нажы (7, 8), скрабкі (9, 10, 12—15, 22), скоблі (11, 18, 24), устаўка (16), трапецыі (17—19), сегмент (20), сякерка (21) з паселішча **Барысаўшчына.**



Меднае долата 3,5 тыс. г. да н. э. з паселішча **Барысаўшчына.**

*Літ.:* 412.
*У. Ф. Ісаенка.*

**БАРЫСКАВІЧЫ,** курганныя могільнікі дрыгавічоў каля в. Барыскавічы Мазырскага р-на.

Могільнік-1. На зах. ускраіне вёскі. 15 курганоў выш. 1—3 м, дыям. 3—6 м. Выявіў і даследаваў 6 насыпаў у 1889 У. З. Завітневіч, абследаваў у 1976 У. Ф. Ісаенка. Выяўлены рэшткі вогнішчаў, фрагменты гліняных гаршкоў.

Могільнік-2. На ўсх. ускраіне вёскі. 12 насыпаў выш. 1—3 м, дыям. 4—7 м. Выявіў і даследаваў 7 курганоў у 1889 Завітневіч, абследаваў у 1976 Ісаенка. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў ямах глыб. 0,7 м. Пахавальны інвентар — пярсцёнкападобныя і трохпацеркавыя скроневыя кольцы, бронзавыя, шкляныя і зярнёныя пацеркі. Могільнікі датуюцца 10—12 ст.

*Літ.:* 380.

**БАРЫЧЭЎСКІ** (сапр. Тарнава-Барычэўскі) Іван Пятровіч [1810, Мінская губ.— 24.7(5.8).1887], беларускі археолаг, гісторык, археограф, фальклярыст і этнограф. Скончыў Мінскую духоўную семінарыю (1829) і Кіеўскую духоўную акадэмію (1833). У 1835—41 служыў у розных дэпартаментах, з 1841 у Гал. упраўленні шляхоў зносін, дзе з 1860 быў дырэктарам канцылярыі. Пытанні археалогіі і этнаграфіі знайшлі адлюстраванне ў апублікаваных у часопісах «Санкт-Петербургские ведомости» і «Маяк», «Журнал Министерства народного просвещения» артыкулах «Пра рускі летапіс у Літве, названы «Хронікай Быхаўца» (1838), «Камяні літоўскіх багінь» (1839), «Урывак з літоўска-рускай гісторыі» (1845), манаграфіі «Аповесці і паданні народаў славянскага племя» (1840) і інш. Звесткі пра помнікі старажытнасці змешчаны ў працы «Паведамленні пра старажытныя помнікі, якія знаходзяцца ў ведамстве Галоўнага ўпраўлення шляхоў зносін і публічных будынкаў» (1861).

*Літ.:* 513. *Г. А. Каханоўскі.*

**БАРЭАЛЬНЫ ЧАС,** пачатковая фаза *галацэну.*

**БАСТЫЁН** (франц. bastion ад позналац. bastillio будую ўмацаванне), чатырох-пяцівугольнае ўмацаванне ў вуглах крапасной агароджы для абстрэлу мясцовасці наперадзе і ўздоўж крапасных сцен і равоў перад імі. На Беларусі земляныя Б. вядомы з сярэдзіны 16 ст. Складаліся з 1 ці 2 земляных валоў для размяшчэння гармат: 1-ы — галоўны, 2-і (кавальер) узвышаўся над 1-м.

Унутры Б. вымуроўвалі парахавыя склепы, скляпеністыя падземныя пераходы. Два даўжэйшыя бакі наз. фасадамі, карацейшыя — фланкамі. Фланкі двух суседніх Б. і частка крапаснай сцяны паміж імі (курціна) стваралі бастыённы фронт. Б. былі ў Бабруйскіх крапасных умацаваннях, *Заслаўскім замку*, замкавых умацаваннях Ляхавіч, Нясвіжа і інш.

**БАЦВІНАВА,** курганны могільнік *радзімічаў* каля в. Бацвінава Чачэрскага р-на. 18 насыпаў выш. 1,5—3 м, дыям. 6—12 м. Абследавала ў 1967 Г. Ф. Салаўёва. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце з рэшткамі спаленай агароджы і ў яме (1). Жаночыя пахаванні — галавой на З, мужчынскія і парныя — на У.

Пахавальны інвентар: нож у ножнах на масіўным бронзавым ланцугу, падкովападобныя фібулы, рэшткі паяснога набору, жаночыя ўпрыгожанні (7-прамянёвыя скроневыя кольцы, грыўня, бранзалеты, пярсцёнкі, лунніцы, крыжыкі круглаканцавыя, пятлістыя, язычковыя і «анцкага» тыпу,



М. В. Без-Карніловіч.

дырхем пач. 10 ст. і брактэаты). Пахаванне ў яме галавой на Пд, у калодзе. Пахавальны інвентар: бранзалет, 2 нажы, фібулы. Належыць, магчыма, чужынцу з Пд.

Датуецца 11—12 ст.

*Літ.:* 1120. *Г. Ф. Салаўёва.*

**БАЯВЫХ СЯКЕР КУЛЬТУРА,** гл. *Шнуравой керамікі культура.*

**БДЫН,** пахавальнае збудаванне, якое ставілася над магілай. У слав. фальклоры вядомы як «хатка смерці». У пісьмовых помніках 11—13 ст. найчасцей называецца «столп» і абазначае невял. домік, келлю, старожку, надмагілле. Выконваў функцыі памяці пра нябожчыка, прыстанішча для яго душы, аховы пахавання ад знешніх уздзеянняў (атмасферных ападкаў, жывёл і г. д.). Археолаг Б. А. Рыбакоў лічыць, што дамавіны ў выглядзе невял. хатак над пахаваннямі палян, радзімічаў і драўлян паявіліся ў раннім жал. веку *(зарубінецкая культура)*, былі распаўсюджаны да звычаю пахавання ў курганах, зноў паявіліся пасля яго адмірання і існавалі да 19 ст. У слав. курганах эпохі Кіеўскай Русі на тэр. Беларусі сустракаюцца рэшткі Б. 2 тыпаў; зрубныя (з бярвёнаў) і слупавыя (з каркасам з тонкіх слупоў, якія замацоўваліся цвікамі). Этнографы сустракалі дамавіны ў выглядзе драўляных зрубных домікаў памерам 1,5×2 м з 2-схільным дахам і маленькім аконцам.

*Літ.:* 140, 1008. *У. У. Багамольнікаў.*

**БЕЗ-КАРНІЛОВІЧ** Міхаіл Восіпавіч [29.9(10.10).1796, Магілёўская губ.— 7(19).1.1862], беларускі гісторык, краязнавец, этнограф, вайсковы тапограф і статыстык, генерал-маёр рус. арміі. Скончыў 1-ы кадэцкі корпус (1816). У 1831—47 кіраваў тапаграфічнай экспедыцыяй у Мінскай, Наўгародскай, Валынскай, Віцебскай, Магілёўскай губ. і Беластоцкай вобл. Даследаваў гісторыю Беларусі, збіраў архіўныя звесткі, запісваў нар. паданні пра помнікі археалогіі і стараж. архітэктуры. Аўтар працы па бел. гіст. краязнаўству. Тэрыторыю Беларусі абмяжоўваў Віцебскай і Магілёўскай губ., астатнія бел. землі называў Літвой. Продкамі беларусаў лічыў крывічоў і радзімічаў, гаварыў пра беларусаў як пра самастойнае племя і ставіў іх у адзін шэраг з суседнімі народамі. Цэнтрам крывічоў лічыў Полацк, адзначаў згуртаванасць Полацкай зямлі ў 1230—40-я г. ў барацьбе супраць крыжакоў. Поруч са зборам краязнаўчых звестак пра Віцебск, Полацк, Магілёў, Друцк, Оршу, Мсціслаў, Азярышча, Копысь, Лепель, Чэрыкаў і інш. бел. гарады і мястэчкі ён падкрэсліваў іх гіст. даўнасць, адзначаў у іх археал. аб'екты. У Магілёве побач з горадам выявіў вёску Магілу з мноствам курганоў, у Дрысе ўстанавіў сляды замка, на Дняпры ў Копысі, на яго думку, таксама стаяў умацаваны замак, які быў разбураны ў час ваенных баталій у 16—17 ст. Паміж Прапойскам і в. Лясной ім зафіксавана мноства курганоў.

*Тв.:* Витебская губерния. Спб., 1852; Исторические сведения о примечательнейших местах в Белоруссии с присовокуплением и других сведений, к ней же относящихся. Спб., 1855.

*Літ.:* 97, 513. *Г. А. Каханоўскі.*

**БЕЗМАНЕТНЫ ПЕРЫЯД.** На тэр. стараж. Русі 2-й пал. 11 — пач. 14 ст. характарызуецца адсутнасцю манеты і абарачэннем сярэбраных зліткаў пэўнай масы і формы. Гл. ва ўступным арт. Нумізматыка.

**БЕКЦІНЕЕЎ** Шаміль Іршатавіч (н. 31.8.1947, г. Патсдам, Германія), беларускі археолаг і нумізмат. Канд. гіст. навук (1990). Скончыў БДУ (1977). З 1970 працуе ў Ін-це гісторыі АН БССР. Даследаваў гарадзішча *Горы* Горацкага р-на. Выказаў гіпотэзу пра існаванне на тэр. полацка-віцебскага Падзвіння ў 2-й пал. 13 — канцы 14 ст. рэгіянальнай грашова-вагавай сістэмы як прататыпу агульнадзярж. грашовай сістэмы ў Вял. кн. Літоўскім у канцы 14 — сярэдзіне 15 ст. Склаў каталог гірак-разнавагаў, знойдзеных на Беларусі, вызначыў іх ролю ў вывучэнні грашовага абарачэння. Даследуе перыяд абарачэння гроша пражскага ў Вял. кн. Літоўскім.

*Тв.:* Весы и гирьки-разновесы X—XIV вв. из Белоруссии // Сов. археология. 1987. № 1; Гирьки-разновесы и их роль в исследовании денежных систем на территории Белоруссии в X—XV вв. // Из истории науки и техники Белоруссии. Мн., 1988; Грашова-вагавая сістэма XIV ст. ў Полацка-Віцебскім Падзвінні // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1989. № 2.

*А. П. Вайценка.*

**БЕЛАВУ́ША,** гарадзішча каля в. Белавуша Столінскага р-на. За 2,5 км на У ад вёскі, на правым беразе р. Гарынь. Мясц. назвы Акоп, Замак. Пляцоўка авальная, памерам 35×46 м. Абкружана валам выш. 2 м і ровам глыб. каля 1 м. Даследавалі ў 1957 Ю. У. Кухарэнка, у 1961 П. А. Рапапорт. Культурны пласт не прасочваецца. Каля гарадзішча знойдзена кераміка, вуглі і перапаленая гліна. Верагодна, гэта было гарадзішча-схованішча. Датуецца 10—11 ст.

*Літ.:* 641, 949.

**БЕЛАРУ́СКАЕ ДОБРААХВО́ТНАЕ ТАВАРЫ́СТВА АХО́ВЫ ПО́МНІКАЎ ГІСТО́РЫІ І КУЛЬТУ́РЫ,** масавая грамадская арг-цыя. Утворана ў 1966 устаноўчым з'ездам, на якім прыняты статут, абраны Цэнтр. савет т-ва. Членам т-ва можа быць любы грамадзянін Беларусі з 16-гадовага ўзросту, які прызнае статут т-ва і працуе ў адной з яго пярвічных арг-цый, таксама дзярж. прадпрыемства, установа, кааператыўныя і грамадскія арг-цыі (калектыўныя члены).

Вышэйшы кіруючы орган — з'езд (склікаецца не радзей аднаго разу ў 5 гадоў), які разглядае і прымае статут т-ва, уносіць у яго змены і дапаўненні, выбірае Рэсп. савет і рэвізійную камісію, абмяркоўвае і зацвярджае іх справаздачы, заслухоўвае навук. даклады і паведамленні. Адбылося 5 з'ездаў т-ва (1966, 1971, 1977, 1981, 1986). Кіруючы орган паміж з'ездамі — Рэспубліканскі савет (склікаецца не радзей аднаго разу ў год), выканаўчы орган — прэзідыум. Працуюць (1991) 6 абл., 129 раённых і гар. саветаў, якія аб'ядноўваюць больш за 12,6 тыс. пярвічных арг-цый (каля 2,1 млн. індывідуальных членаў).

Таварыства з дапамогай грамадскасці і насельніцтва праводзіць работу па выяўленню і вывучэнню помнікаў гісторыі і культуры, забеспячэнню іх аховы (складанне *ахоўных абавязацельстваў,* устаноўка *ахоўных знакаў,* вызначэнне ахоўных зон, кантроль за захаваннем рэжыму аховы), фінансуе работы па кансервацыі і рэстаўрацыі унікальных помнікаў археалогіі і архітэктуры. Выдае кнігі, брашуры, буклеты, плакаты, у т. л. археал. тэматыкі: *«Археалагічная карта Беларусі»,* «Гарады Беларусі па летапісах і раскопках (IX—XIII стст.)» Г. В. Штыхава і «Старажытная гісторыя Усходняга Палесся» У. Ф. Ісаенкі (1975), «Замкі Беларусі (XIII—XVII ст.)» М. Ткачова і «Заслаўскі гісторыка-археалагічны запаведнік» С. А. Мілючэнкава (1977), «Археалагічныя помнікі Гомельшчыны» У. У. Багамольнікава і А. А. Макушнікава, «Археалагічныя помнікі Міншчыны» М. М. Чарняўскага (1988). У 1970—89 выдаваўся штоквартальны бюлетэнь *«Помнікі гісторыі і культуры Беларусі»,* з 1989 сумесна з Бел. аддзяленнем фонду культуры выдае час. *«Спадчына».* Пры т-ве дзейнічаюць навукова-метадычны, рэдакцыйна-экспертны саветы, секцыі прапаганды, гісторыі, археалогіі, архітэктуры, этнаграфіі, ма-



Ш. І. Бекцінееў.

стацтва, моладзі, дакументальных помнікаў.

*Г. А. Саўчанка.*

**БЕЛАРУ́СКАЕ КРАЯЗНА́ЎЧАЕ ТАВАРЫ́СТВА,** добраахвотная грамадская арганізацыя, якая дзейнічае на ўсёй тэр. Беларусі ў адпаведнасці з існуючым заканадаўствам і прынятым статутам. Утворана 27.12.1989 на Устаноўчым з'ездзе таварыства. У аснову дзейнасці пакладзены прынцыпы Цэнтральнага бюро краязнаўства, якое працавала пры Інбелкульце ў 1920-я г., і Краязнаўчай камісіі, створанай у ліст. 1987 у структуры Бел. фонда культуры. Першаступеннай задачай Б. к. т. (зацверджана 4.6.1991) з'яўляецца спрыянне культурна-нац. адраджэнню краязнаўчага руху, комплекснае вывучэнне населеных пунктаў і асобных рэгіёнаў Беларусі. Сярод задач Б. к. т. — збор звестак пра помнікі археалогіі і ахова іх ад пашкоджанняў, вывучэнне і захаванне помнікаў архітэктуры, этнаграфіі і інш., цесная сувязь з краязнаўчымі музеямі і інш. грамадскімі і дзярж. арганізацыямі, дзейнасць якіх скіравана на вывучэнне і захаванне нац. спадчыны. Б. к. т. вядзе работу па паляпшэнні выпуску краязнаўчай літаратуры, па выданні рукапіснай спадчыны краязнаўцаў, літаратуры пра асобныя помнікі нашай гісторыі і пра саміх краязнаўцаў. Статут прадугледжвае аднаўленне выхаду краязнаўчага часопіса.

Матэрыяльная база жыццядзейнасці таварыства ствараецца пераважна за кошт спонсарства. Абраны Рада (87 чал.) і Сакратарыят (10 чал.) Б. к. т.; старшыня Рады — Г. А. Каханоўскі, намеснікі — М. В. Біч, Л. Р. Казлоў, З. Х. Санько, В. А. Чамярыцкі. У абласцях і раёнах створаны краязнаўчыя згуртаванні. Б. к. т. мяркуе мець прадстаўніцтвы ў інш. рэспубліках і краінах. У Браславе, Гродне, Навагрудку, Полацку, Рагачове і інш. праводзяцца краязнаўчыя чытанні.

*Г. А. Каханоўскі.*

**«БЕЛАРУ́СКАЯ АРХЕАЛО́ГІЯ»,** зборнік прац па бел. археалогіі. Падрыхтаваны супрацоўнікамі Ін-та гісторыі АН Беларусі. У кнізе абагульнены вынікі археал. даследаванняў на тэр. рэспублікі за гады Сав. улады. Выдадзены ў 1987 у Мінску на рус. мове. Пададзена гісторыя арганізацыі і асн. праблемы археал. навукі на Беларусі, кароткая характарыстыка археал. выданняў, названы даследчыкі, якія працавалі на тэр. рэспублікі, адлюстравана супрацоўніцтва бел. вучоных з вучонымі Масквы, Ленінграда, Украіны, Літвы, Польшчы. Зроблены агляд вывучэння культур каменнага і бронзавага вякоў на Палессі, Падняпроўі, Панямонні і Падзвінні (У. Ф. Ісаенка, А. Г. Калечыц, М. М. Чарняўскі), аналіз знаходак з гарадзішчаў, паселішчаў, могільнікаў жал. веку (В. С. Вяргей, Г. В. Штыхаў), матэрыялаў раскопак помнікаў сярэднявечча (Т. М. Каробушкіна, Я. Г. Звяруга). Зборнік ілюстраваны фотаздымкамі і замалёўкамі рэчавых знаходак, мае бібліяграфію.

*У. У. Багамольнікаў.*

**БЕЛАРУ́СКІ ДЗЯРЖА́ЎНЫ МУЗЕ́Й ГІСТО́РЫІ РЭЛІ́ГІІ.** Заснаваны ў 1977 у Гродне. Адкрыты ў студзені 1985. Мае каля 300 археал. прадметаў (1991). Сярод экспанатаў знаходкі з раскопак на тэр. былых манастыроў базыльянак (гліняны посуд, чарапіца, цэгла, кафля 15—18 ст.), брыгітак (дэкаратыўныя пасудзіны 18 ст.), Каложскай царквы (фрагменты неалітычных пасудзін), Старога Замка ў Гродне (снарады для катапульты, ядры 14 ст.), са стаянак *Асавец* (амулеты з ікла мядзведзя, зуба дзіка, бурштыну), *Пескі* (нуклеусы), *Янава* (наканечнікі коп'яў, скрабкі, нажы), селішчаў *Прысна* (падвеска бронзавая), *Шарсцін* (прасліца са свастыкай), гарадзішча *Маскавічы* (энкалпіёны 12 ст.), курганных могільнікаў *Вензаўшчына* (бронзавыя фібулы, пярсцёнкі, нажніцы, сякера, жал. спражкі, крэсівы, тачыльныя брускі, скроневыя кольцы, завушніцы, бурштынавыя каралі 10 — пач. 12 ст.), *Косаўшчына* (грыўня, скро-

невыя кольцы, косці 10—11 ст.), з раскопак у Ваўкавыску (каменная баба, фрагменты бранзалетаў 10—13 ст., крыжыкі 11—13 ст.), у будынку Полацкага Сафійскага сабора (плінфа, свінец 11 ст.), каменны лепельскі *ідал* 9—10 ст.

*Н. І. Ляшчонак.*

**БЕЛАРУ́СКІ ДЗЯРЖА́ЎНЫ УНІВЕРСІТЭ́Т** імя У. І. Леніна, БДУ. Заснаваны ў 1921 у Мінску. У 1925 у БДУ створаны краязнаўчы гурток, рэарганізаваны ў 1926 у краязнаўчае т-ва, якое ўзначаліў рэктар БДУ прафесар У. І. Пічэта. Т-ва мела на мэце вывучэнне Беларусі ў прыродна-геаграфічным, сац.-эканамічным, культурным і гіст. кірунках, дзеля чаго арганізоўвала збіранне краязнаўчага матэрыялу праз экспедыцыі, экскурсіі і індывідуальныя камандзіроўкі. У 1924 пошук археал. помнікаў у раёне в. *Новы Быхаў* Быхаўскага р-на правёў студэнт С. С. *Шутаў*, ён сабраў вял. калекцыю керамічнага матэрыялу з помнікаў розных эпох. Вясной 1925 члены т-ва пад кіраўніцтвам дацэнта І. А. *Сербава* раскопвалі курганы каля в. *Пятроўшчына* і Рылаўшчына (гл. *Дружба)* непадалёку ад Мінска. У 1926 студэнт А. Л. Аніхоўскі каля в. *Чаркасова* (Аршанскі р-н) абследаваў гарадзішча і курганную групу, раскапаў 1 курган з пахавальным абрадам трупапалажэння, каля в. Пранічкі даследаваў 2 насыпы з трупаспаленнем. Каля в. Стары Дзедзін (Клімавіцкі р-н) абследаваў месца знаходкі скарбу дырхемаў 10 ст. (гл. *Старадзедзінскі манетны скарб)* і раскапаў 4 курганы з трупапалажэннем. У 1926 арганізавана першая краязнаўчая археал. экспедыцыя студэнтаў БДУ. Шутаў і М. М. *Улашчык* праводзілі абследаванні ўздоўж берагоў р. Свіслач ад упадзення ў яе р. Жужлянкі да р. Бярэзіны і на невял. участку правага берага Бярэзіны, дзе ў яе ўпадае р. Свіслач (Асіповіцкі р-н). Участак ад в. Смык да р. Жужлянкі быў абследаваны разам з А. Немцавым. Экспедыцыя выявіла і апісала 3 гарадзішчы, 3 селішчы, 15 курганных груп (198 насыпаў); на 2 гарадзішчах сабраны пад'ёмны матэрыял. У 1927 комплексная археал. экспедыцыя студэнтаў БДУ праводзілася ў Тураўскім р-не. Група ў складзе А. Дз *Кавалені*, Шутава і заг. мазырскага архіва І. Р. Калодкіна выявіла і абследавала помнікі розных эпох — стаянкі, гарадзішчы, селішчы, курганныя могільнікі, сабрала пад'ёмны матэрыял. На 3 гарадзішчах праведзены невял. раскопкі, ускрыты 2 пахаванні з бескурганнага могільніка каля в. *Буразь*, даследаваны 3 курганы з трупапалажэннем на гарызонце з курганнай групы каля в. *Рычаў* (Жыткавіцкі р-н). У 1928 у час 3-й краязнаўчай экспедыцыі БДУ ва Ушацкі р-н, якую ўзначаліў Сербаў, абследаваны басейн р. Ушачы. Выяўлены, апісаны і нанесены на карту 2 селішчы, 3 гарадзішчы, 32 курганныя групы. Каля в. *Кублічы* выяўлена курганная група з каменнай абкладкай насыпаў, Шутаў адкрыў першую ў раёне неалітычную стаянку каля в. Гараны. У час экспедыцыі студэнты выступалі перад насельніцтвам з лекцыямі і дакладамі пра мэты і задачы краязнаўчага руху. Студэнты-краязнаўцы Каваленя, Шутаў, Улашчык у 1927 удзельнічалі ў раскопках верхнепалеалітычнай стаянкі каля в. *Бердыж* (Чачэрскі р-н). Па даручэнню археал. устаноў Інбелкульта і Беларускай АН найб. падрыхтаваныя студэнты праводзілі самастойныя экспедыцыі. У 1928 Каваленя правёдзіў разведку археал. помнікаў па берагах Дняпра і Свіслачы ў Бабруйскай, Магілёўскай і Мінскай акругах. На берагах Дняпра па маршруце Магілёў — Новы Быхаў ён зарэгістраваў і апісаў 5 гарадзішчаў, 2 селішчы, 27 курганоў, на р. Друць каля в. *Лучын* і Азярышча выявіў сляды неалітычных стаянак, нанёс на карту і апісаў гарадзішчы ў Рагачове, Лучыне, *Задруцці.* У Мінскай акрузе Каваленя абследаваў гарадзішчы каля в. Міханавічы, Гарадзішча, Астрашыцкі Гарадок, Лысая Гара, выявіў вял. колькасць курганоў і курганных груп уздоўж дарог Мінск — Самахвалавічы, Мінск — Гарадзішча, Мінск — Кальварыя. У пасляваенны перыяд археал. атрады студэнтаў БДУ прымалі ўдзел у экспедыцыях пад кіраўніцтвам супрацоўнікаў АН БССР і БДУ. У 1954 А. Р. *Мітрафанаў* з студэнтамі гіст. факультэта правёдзіў раскопкі гарадзішча каля в. *Гарадзішча* Мінскага р-на (матэрыялы раскопак не былі апублікаваны і часткова страчаны). Студэнты ўдзельнічалі ў даследаваннях Мінскага замчышча ў 1957—61 і Полацкага гарадзішча ў 1958—61. З 1958 на гіст. факультэце ўведзена штогадовая археал. практыка. Упершыню яна праводзілася на гарадзішчы каля в. *Збаравічы* Мінскага р-на (кіраўнік Мітрафанаў). Пад кіраўніцтвам праф. Ф. М. Нячая група студэнтаў у 1946 удзельнічала ў раскопках стараж. Херсанеса ў Крыме і Мірмекія каля г. Керч (некаторыя матэрыялы з гэтых раскопак зберагаюцца ў Музеі гісторыі БДУ). Археал. атрады пад кіраўніцтвам Ю. І. *Драгуна* даследавалі ў 1964 гарадзішча каля в. *Жужлянка* Асіповіцкага р-на, у 1965—68 гарадзішча г. Оршы; атрыманы багаты рэчавы матэрыял, які дазволіў устанавіць дату ўзнікнення горада. З 1963 археал. экспедыцыі БДУ узначальвае Э. М. *Загарульскі.* Студэнты даследавалі гарадзішча ў в. *Зборск* (1964), курганную групу ў г. Заслаўе (1965), гарадзішча ў г. п. *Стрэшын* (1966), гарадзішча каля в. Гарадзішча Мінскага р-на (1963—64, 1967—68), курганную групу і селішча каля в. Ашмянцы Ваўкавыскага р-на (1968), гарадзішчы ў в. *Свіслач* Асіповіцкага р-на (1969—71) і г. п. *Копысь* (1972) і інш. У 1973 пры гіст. факультэце БДУ створана кафедра археалогіі, этнаграфіі і дапаможных гіст. дысцыплін, якую ўзначальвае праф. Загарульскі. На кафедры працуюць кандыдаты гіст. навук, дацэнты А. М. *Ваганава,* А. А. *Егарэйчанка,*М. Ф. Піліпенка, В. Н. *Рабцэвіч*, выкладчык А. А. Стуканаў. Гал. кірунак дзейнасці кафедры — вучэбна-педагагічная праца, якая, апрача лекцыйных курсаў, уключае правядзенне практычных, лабараторных заняткаў, кіраўніцтва навук. работай, архіўна-музейнай і археал. практыкай студэнтаў. Чытаюцца спецкурсы па метадах археал. і этнаграфічных даследаванняў, археалогіі і этнаграфіі Беларусі, геральдыцы, фалерыстыцы, храналогіі, архівазнаўству, праводзяцца спецсемінары па этнагенезу славян, этнічнай гісторыі, стараж. культуры, помніках гісторыі і культуры Беларусі. Вял. месца адводзіцца палявым археал. даследаванням. Археал. экспедыцыі БДУ працавалі ў Рагачове (1973, 1975—76), Мінску (1974), на гарадзішчах каля вёсак *Кісцяні* (1975—76), *Таўкачэвічы 1-я* (1979), *Мадора* (1979), *Юдзічы* (1980), могільніках каля вёсак *Гадзілавічы* (1981), *Каласы* (1982), *Ветачка* (1983—84), *Гаравец* (1986), *Наўры* (1987), гарадзішчах каля вёсак *Навасёлкі* (Мядзельскі р-н, 1988), *Гарадзішча* (Мядзельскі р-н, 1986—89). Каля в. *Вішчын* (1977—86) экспедыцыя БДУ даследавала замак феадала эпохі Кіеўскай Русі, на вале якога знойдзены унікальны скарб ювелірных вырабаў і грашовых сярэбраных зліткаў — грыўняў (гл. *Вішчынскі грашова-рэчавы скарб*). Матэрыялы археал. экспедыцый штогод папаўняюць экспазіцыю *Музея гісторыі Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна.*

*Літ.:* 216, 750. *А. М. Ваганава.*

**БЕЛАРУ́СКІ МУЗЕ́Й** у Вільні, Віленскі беларускі гісторыка-этнаграфічны музей імя І. І. Луцкевіча. Існаваў у 1921—45. Заснаваны на базе прыватнай калекцыі бел. этнографа і археолага І. Луцкевіча і інш. матэрыялаў. Размяшчаўся ў будынку былога базыліянскага кляштара, належаў Бел. навук. т-ву. З археал. экспанатаў зберагліся знаходкі з раскопак і разведак Я. П. Тышкевіча, Г. Х. Татура (Барысаўскі пав.), Церабянёва (Дзісенскі пав.), І. Луцкевіча, М. Пецюкевіча (Браслаў-

...шчына), рэчы каменнага веку, каменныя сякеры, кераміка з курганоў, пярсцёнкі з пячаткамі полацкіх князёў Усяслава і Барыса, аднаго са смаленскіх князёў 14 ст., пячатка Міндоўга, 103 пячаткі розных часоў, свінцовыя пломбы са знакамі (12—13 ст.), выяўленыя ў Драгічыне Надбужскім, калекцыя медных крыжоў 11 ст., амулет-змеявік. У калекцыі старадаўняй зброі захоўваліся панцыр воіна, частка панцыра каня, кальчугі, крыжацкі меч, разнастайная халодная і агнястрэльная зброя, а таксама ўзбраенне бел. сялян. У музеі захоўваліся калекцыі рукапісных кніг (ілюстраванае Жухавіцкае евангелле 14 ст., трэбнік Жыровіцкай царквы 1545), стараж. бел. граматы, Аль-Кітаб 16 ст., збор друкаваных кніг 15—18 ст., у т. л. пражскія выданні Бібліі Ф. Скарыны, кнігі з друкарняў у Куцеінскім манастыры, Еўі, Лоску, Вільні, Нясвіжы, Слуцку, Полацку, Гродне, Магілёве, Трыёдзь каляровая 1491 Ш. Фіёля, Статут Вял. кн. Літоўскага 1588 з друкарні Мамонічаў, «Часаслоў» Івана Фёдарава, зборы Е. Р. Раманава, Б. Л. Даніловіча, І. Луцкевіча. У калекцыі бел. нар. мастацтва разьба па дрэве, лубкі, карціны бел. мастакоў, бел. нар. музычныя інструменты, старадаўняе адзенне, калекцыя слуцкіх паясоў 16—18 ст. Меў багатую бібліятэку. Пасля ліквідацыі музея экспанаты перададзены ў Гісторыка-этнаграфічны музей Літвы ў Вільнюсе і Дзярж. музей Беларусі, кнігі і рукапісы — у Цэнтр. б-ку АН Літвы, частка трапіла ў Цэнтр. дзярж. архіў-музей л-ры і мастацтва Беларусі.

*Літ.*: 506, 700, 701. *Э. М. Зайкоўскі.*

**«БЕЛАРУ́СКІЯ СТАРАЖЫ́ТНАСЦІ»**, зборнік дакладаў да канферэнцыі па археалогіі Беларусі, якая адбылася ў студзені — лютым 1968. Выдадзены ў 1967 у Мінску на рус. мове. Складаецца з матэрыялаў, прысвечаных розным эпохам стараж. гісторыі Беларусі ад верхняга палеаліту да ранняга феадалізму, у т. л. пра стаянку *Юравічы* Калінкавіцкага р-на (У. Дз. Будзько), неалітычныя помнікі на ніжняй Прыпяці (У. Ф. Ісаенка) і ў вярхоўі Дняпра (В. Р. Тарасенка), новыя даныя па спрэчных пытаннях бронзавага веку на Беларусі (Ісаенка, М. М. Чарняўскі), пра паселішча *Шчаткава* Бабруйскага р-на (Л. Д. Побаль), гарадзішча *Банцараўшчына* (А. Р. Мітрафанаў), полацкае каменнае дойлідства (Г. В. Штыхаў), зброю (Я. Г. Звяруга) і фауну (В. В. Шчаглова, Звяруга) стараж. Ваўкавыска, раннеслав. паселішчы ў ніжнім цячэнні Свіслачы (Ю. І. Драгун), вынікі нумізматычных даследаванняў на Беларусі (В. Н. Рабцэвіч). Кніга ілюстравана малюнкамі і табліцамі. Даецца бібліяграфічны матэрыял. *В. В. Гусева.*

**«БЕЛАРУ́СКІЯ СТАРАЖЫ́ТНАСЦІ»**, зборнік матэрыялаў канферэнцыі па археалогіі БССР і сумежных тэрыторый, якая адбылася 28—30.3.1972 у Ін-це гісторыі АН БССР. Выдадзены ў 1972 у Мінску на рус. мове. Складаецца з дакладаў і паведамленняў пра даследаванні помнікаў розных эпох, у т. л. пра неалітычную кераміку Палесся (У. Ф. Ісаенка), паходжанне банцараўскай культуры (А. Р. Мітрафанаў), фауну селішча *Камень* Пінскага р-на (В. В. Шчаглова), стараж. паселішчы на сярэдняй Бярэзіне (Л. Д. Побаль), курганы ў в. Эсьмоны Бялыніцкага р-на (Я. Р. Рыер) і *Капысіца* Шклоўскага р-на (А. А. Выржыкоўскі), курганы Полацкай зямлі (Г. В. Штыхаў), звесткі з гісторыі Навагрудка (М. І. Ермаловіч), археал. даследаванні Бярэсця (П. Ф. Лысенка), Слоніма (Я. Г. Звяруга), месцазнаходжанне летапісных гарадоў Веварэцк і Астрэя (В. В. Сядоў), паходжанне гарадоў Чорнай Русі (Ф. Д. Гурэвіч), пра вежы валынскага тыпу і іх пашырэнне на Беларусі (М. А. Ткачоў), рагавыя прылады працы з-пад Смаргоні (М. М. Чарняўскі, П. Ф. Каліноўскі), манеты *Дзягцянскага манетна-рэчавага скарбу* (В. Н. Рабцэвіч). Ілюстраваны малюнкамі, дадзена бібліяграфія. *Г. В. Штыхаў.*

**БЕЛАЎШЧЫНА**, гарадзішча жал. веку каля в. Белаўшчына Мядзельскага р-на. За 0,3—0,4 км на ПдЗ ад вёскі, на правым беразе ручая. Авальная пляцоўка памерам 100×40 м. Штучныя ўмацаванні адсутнічаюць. Схілы найб. стромкія з У, выш. 7—9 м. Адкрыў і абследаваў у 1979 Э. М. Зайкоўскі. Культурны пласт каля ўсх. краю 0,35 м.

Знойдзены абломкі ляпной штрыхаванай вастрарэбернай керамікі, каменны брусок з адтулінай для падвешвання, абпалены крэмень са слядамі апрацоўкі, венчык ганчарнай пасудзіны 2-й пал. 10 ці пач. 11 ст., каменная прадаўгаватая зерняцёрка з глыбокім жолабам.

*Літ.*: 391.

**БЕ́ЛАЯ САРО́КА**, паселішча каля в. Белая Сарока Нараўлянскага р-на. За 1—1,5 км на ПнЗ ад вёскі, на першай надпоймавай тэрасе р. Прыпяць, на выш. 3—4 м над поймай. Абмежавана з трох бакоў балотамі, з чацвёртага — старыцай Прыпяці. Памеры 200×80 м. Адкрыў у 1962 і даследаваў у 1972 У. Ф. Ісаенка.

Знойдзена 27 мікралітычных пласцінак з прытупленым рэтушшу краем, 600 апрацаваных крамянёў (нуклеусы, трапецыі, прамавугольнікі), 123 крамянёвыя прылады працы (нажы са скошаным канцом, скрабкі, скоблі, разцы, рэтушоры, праколкі, свярдзёлкі) і свідэрскія, постсвідэрскія, тронкавыя, вербалістыя наканечнікі стрэл, рэшткі 4 вогнішчаў. Датуецца 8—5-м тысячагоддзямі да н. э.

*Літ.*: 460.

**БЕ́ЛІЦА**, група археал. помнікаў каля в. Беліца Лідскага р-на.

Стаянка-1. За 0,5 км на Пд ад вёскі, на краі правабярэжнай тэрасы выш. 8 м, ніжэй упадзення р. Залатая ў р. Нёман. Даўж. уздоўж краю тэрасы каля 1,5 км, шыр. 60—70 м. Выявіў у 1970 Г. І. Гарэцкі, даследаваў у 1970-я г. М. М. Чарняўскі. Культурны пласт месцамі да 0,3—0,4 м. Знойдзены



Крамянёвыя наканечнікі (1—3), праколка (4), разец (5), нажы (6—9, 14, 23), скрабкі (10—13, 16), устаўкі долатаў (15, 19), прамавугольнікі (17, 18), вастрыё (20), мікраграветы (21, 22) з паселішча **Белая Сарока.**

крамянёвыя лістападобныя і трохвугольныя наканечнікі стрэл, бакавыя і клінападобныя разцы, скрабкі на пласцінах і адшчэпах, нажы, праколкі, сякеры, нуклеусы, у т. л. двухпляцовачныя прызматычныя, трапляюцца фрагменты керамікі з расліннымі дамешкамі ў гліне і інш. Адносіцца да *свідэрскай культуры* фінальнага палеаліту і мезаліту, ранняга этапу *нёманскай культуры* і ранняга бронзавага веку.

Стаянка-2. У пойме правага берага р. Нёман, ніжэй упадзення ў яго р. Залатая. Памеры 40×180 м. Выявіў у 1970 Гарэцкі, даследаваў у 1977—79 і 1982 Чарняўскі, ускрыта каля 600 $м^2$ пл. Культурны пласт 0,3—0,4 м. У паглыбленнях выяўлены невял. агнішчы, знойдзены крамянёвыя скрабкі на адшчэпах,

бакавыя і вуглавыя разцы, трапецыі, вастрыі, скоблі, нажы, аднапляцовачныя нуклеусы. Стаянка адносіцца да позняга мезаліту, яе крамянёвы матэрыял мае рысы *яніславіцкай культуры*.

Стаянка-4. На схіле надпоймавай тэрасы, на паўд. ускраіне вёскі. Памеры 50×90 м. Выявіў і даследаваў у 1977 Чарняўскі, раскапана 40 м² пл. Культурны пласт 0,3 м. Знойдзены крамянёвыя вырабы позняга мезаліту, ранняга неаліту, фрагменты керамікі і крамянёвыя прылады *шнуравой керамікі культур* ранняга бронзавага веку.

*Літ.:* 1289. *М. М. Чарняўскі.*

**«БЕЛРЭСТАЎРА́ЦЫЯ»,** Беларускае Спецыялізаванае навукова-рэстаўрацыйнае вытворчае аб'яднанне Міністэрства культуры Беларусі. Створана ў 1985 на базе Спецыяльных навук.-рэстаўрацыйных вытворчых майстэрняў (з 1968). Аб'ядноўвае Мінскую (гал. арг-цыя), Брэсцкую, Віцебскую, Гомельскую, Гродзенскую, Магілёўскую спец. навук.-рэстаўрацыйныя вытворчыя майстэрні і Бел. Рэстаўрацыйны праектны ін-т. Займаецца спец. буд.-мантажнымі, праектнымі і навук.-даследчымі працамі па рэстаўрацыі і кансервацыі помнікаў гісторыі, архітэктуры, горадабудаўніцтва, садова-паркавага мастацтва, твораў станковага і манументальнага жывапісу, скульптуры, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, кнігі. Археал. падраздзяленне «Б.» (2 археал. сектары і архіт. групы) праводзіць даследаванні архіт.-археал. помнікаў з мэтаю іх кансервацыі і рэстаўрацыі, ахоўныя раскопкі (з Ін-там гісторыі АН Беларусі) у гістар. цэнтрах бел. гарадоў, распрацоўвае ахоўныя зоны археал. культурнага пласта ў стараж. населеных пунктах рэспублікі.

З удзелам «Б.» выяўлена *Гродзенская Прачысценская царква*, рэшткі абарончых муроў 12 ст. на тэр. *Гродзенскага Старога замка*, падмуркі храма і 2 ярусы падлогі 16—18 ст. у Гальшанскім касцёле (гл. ў арт. *Гальшанскі кляштар францысканцаў*), рэшткі ашмянскага кляштара францысканцаў, комплекс бернардзінскага кляштара 18 ст. ў Мсціславе, шэраг каменных пабудоў 17—18 ст. у Магілёве, Мінску, Пінску і інш. *А. А. Трусаў.*

**БЕ́ЛЬКАВІЧЫ,** курганны могільнік *дрыгавічоў* каля в. Белькавічы Пухавіцкага р-на. За 500 м на ПнУ ад вёскі, на могілках. 10 курганоў выш. 0,7—2 м, дыям. 6—12 м. Адкрыў і даследаваў 3 курганы ў канцы 19 ст. К. П. Тышкевіч, абследавалі ў 1930 А. Рынейскі, у 1985 Т. С. Бубенька. Пахавальны абрад — трупапалажэнне. Пахавальны інвентар — бронзавы ланцужок, пярсцёнак, рэшткі жал. нажа (у 2 насыпах рэчы не выяўлены).

*Літ.:* 1022.

**БЕ́ЛЬЧЫЦА,** курганны могільнік *крывічоў* каля в. Бельчыца Полацкага р-на. За 1 км на Пд ад вёскі, ва ўрочышчы Валатоўкі, на правым беразе р. Бяльчанка, за 5 км ад Полацкага гарадзішча. Захаваліся 3 насыпы выш. 1—2 м, дыям. 8—9 м. Раней тут былі 33 курганы, насыпаныя на месцы селішча сярэдзіны 1-га тысячагоддзя н. э., вакол іх зроблены раўкі і ямы. 2 насыпы вылучаліся большымі памерамі: выш. 3—4 м, дыям. 15 м. Адкрылі і даследавалі ў 1928 А. М. Ляўданскі і С. А. Дубінскі, раскапана 9 курганоў. Пахавальныя абрады трупаспаленне, інгумацыя на грунце (зрэдку на вогнішчы) і трупапалажэнне ў яме (у 2 курганах галавой на З).

Некаторыя курганы, відаць, былі кенатафамі. У курганах з трупаспаленнем рэчаў было больш, чым у курганах з трупапалажэннем. Знойдзены ганчарны посуд, аналагічны знаходкам на Полацкім гарадзішчы, 3 бронзавыя бранзалеты (адзін шырокі, характэрны для Усх. Прыбалтыкі), скроневае кольца з завязанымі канцамі, арнаментаваная бляшка, нож, шкляныя пацеркі сіняга, зялёнага і жоўтага колераў. У 1975 Г. В. Штыхаў даследаваў 1 курган. Знойдзена шкляная пацерка «ўвочкі» і жалезныя восці. Пад курганом у культурным пласце селішча выяўлена шмат ляпной керамікі (некаторая арнаментавана расчосамі), абломак сярпа, бронзавае скроневае кольца з закручаным канцом, гліняныя прасліца. Датуецца 10—11 ст.

*Літ.:* 1361. *Г. В. Штыхаў.*



Да арт. **Бельчыцкія храмы.** Бельчыцкі Барысаглебскі манастыр. Акварэль Трутнева. 1866.



Да арт. **Бельчыцкія храмы.** Фрагмент фрэскі 12 ст. з Пятніцкай царквы.

**БЕ́ЛЬЧЫЦКІЯ ХРА́МЫ.** Пабудаваны ў 12 ст. на тэр. Бельчыцкага Барысаглебскага манастыра, заснаванага на месцы рэзідэнцыі полацкіх князёў у б. прадмесці Полацка Бельчыцы, на левым беразе Зах. Дзвіны пры ўпадзенні ў яе р. Бяльчанкі. Былі 4 мураваныя храмы: Вялікі 3-апсідны сабор (разбураны ў 16 ст., захаваліся падмуркі), Пятніцкая і Барысаглебская цэрквы (разбураны пасля 1920-х г.), храм-трыконх (разбураны да 18 ст.). Усе яны ўзведзены ў тэхніцы муроўкі сцен з плінфы са «схаваным радам». У 1928 напаўразбураныя Барысаглебскую і Пятніцкую цэрквы даследаваў І. М. Хозераў. Вялікі сабор даследавалі ў 1965 М. К. Каргер, у 1970-я г. П. А. Рапапорт, у 1990 А. А. Трусаў.

**Вялікі сабор** (1120—30-я г.), крыжова-купальная 3-апсідная пабудо-

ва, падзелена 6 слупамі на 3 нефы, мела 3 прытворы. Памеры без прытвораў 23,5×16,5 м. Сцены складзены з плінфы памерам 3,5—4×20—21×32—33 см, маюць знакі і клеймы. Фасады дэкарыраваны плоскімі лапаткамі. Купал апіраўся не на ўсх., а на зах. пары слупоў (ссунуты на 1 чляненне на З), што з'яўлялася асаблівасцю храма. Падмурак храма закладзены ў пясчаным грунце на глыб. 1,6 м. Унутры падлога выкладзена глазураванымі пліткамі, сцены былі ўпрыгожаны фрэскамі. Дзвярны праём зах. сцяны аздоблены вітым геаметрычным арнаментам, падобным на візантыйскі, Барыса Усяславіча). Сцены складзены з плінфы (памеры 2,5—3,5×15—16,5×29—31 см), аформлены плоскімі лапаткамі па вуглах, 2 ярусамі аконных праёмаў. Унутры падлога была выкладзена керамічнымі паліванымі пліткамі. Інтэр'ер размаляваны фрэскамі на сюжэты евангельскага цыкла. На паўн. сцяне — кампазіцыі «Стрэчанне» і «Укрыжаванне», на паўд. сцяне — «Аплакванне». У ніжнім ярусе былі фігуры святых. На зах. баку перадалтарных слупоў — выявы князёў Барыса і Глеба ў поўны рост, злева на ўнутранай плоскасці алтарнай аркі — св. Міколы, справа — кавыя нефы, прытвор з хорамі пад ім, 3 апсіды (2 бакавыя ў тоўшчы ўсх. сцяны), своеасаблівы падкупальны пастамент. Сцены складзены з плінфы (памеры 3—4×21×32—33 см), аформлены плоскімі лапаткамі. Аконныя праёмы размяшчаліся ў 2 ярусы (ніжні ярус большых памераў), знадворку аформлены ўступамі. Аканіцы драўляныя, круглай і трохвугольнай формы. Унутры царква была размалявана фрэскамі з выявамі святых, воінаў і пакутнікаў (на паўн. сцяне — франталь-



**Бельчыцкія храмы.** Рэшткі Пятніцкай царквы 12 ст.



Да арт. **Бельчыцкія храмы.** Фрэскі Вялікага сабора Бельчыцкага манастыра.



Да арт. **Бельчыцкія храмы.** Паўночная і ўсходняя сцены Пятніцкай царквы.



Да арт. **Бельчыцкія храмы.** Барысаглебская царква. Рэканструкцыя А. М. Семянтоўскага. 19 ст.

панель зах. сцяны пафарбавана пад мармур. Над чырвона-карычневай паласой, якая аддзяляла панель ад верхняй часткі сцяны, белай фарбай створаны складаны арнамент з выявай завіткоў «квітучага крыжа».

**Пятніцкая царква** (12 ст.), аднанефавы бесслуповы храм памерам каля 5,1×5,8 м (верагодны дойлід Іаан). Мела прамавугольную апсіду, прытвор і падземную камеру (крыпту, магчыма, усыпальніцу князя невядомага святога. Паўн. сцяна была аздоблена чырвоным раслінным арнаментам на белым фоне. Фрэскі былі звязаны з архітэктонікай інтэр'ера: цыкл, які пачынаўся на паўн. сцяне, ішоў злева направа і заканчваўся на зах. сцяне, відаць, сцэнамі «страшнага суда».

**Барысаглебская царква** (сярэдзіна 12 ст.), трохнефавы крыжовакупальны 6-слуповы храм памерам каля 8,3×14,5 м. Мела вузкія ба- ныя), арнаментам (выступы лапатак, аконныя і дзвярныя праёмы). Стыль і тэхніка выканання фрэсак блізкая да кіева-візантыйскай мастацкай традыцыі.

**Храм-трыконх** (12—13 ст.), крыжова-купальная 4-слуповая пабудова з трыма паўкруглымі апсідамі, прыбудаванымі з У, Пн і Пд і ўключанымі ў інтэр'ер царквы. Верагод-

на, храм меў 3 уваходы і крыпту. М. М. Варонін выказаў меркаванне, што помнік належыць да тыпу храмаў-трыконхаў, пашыраных у Афоне, Балгарыі і Сербіі ў 11—17 ст.

*Літ.:* 205, 959, 1226. *А. А. Трусаў.*

**БЕЛЯШЭЎСКІ** Мікалай Фядотавіч [30.9(12.10).1867, г. Умань Чаркаскай вобл.— 21.4.1926], украінскі археолаг, этнограф і мастацтвазнавец. Акад. АН УССР (1919). Скончыў юрыдычны факультэт Кіеўскага ун-та. У 1902—23 дырэктар Кіеўскага гіст. музея. Рэдактар зб. «Археалагічны летапіс Паўднёвай Расіі» (т. 1—3. Кіеў, 1899—1901) і час. «Археологическая летопись Южной России» (1903—05). Адзін з першых даследчыкаў (1890-я г.) паселішчаў на Зах. Бугу і Гомельшчыне, а таксама ў Сярэднім Падняпроўі. Аўтар прац па археалогіі і ўкр. арнаментыцы.

*Тв.:* Несколько новых стоянок каменного века по Днепру и его притокам // Киевская старина. 1891. Т. 32, № 3 (март); Дюнные стоянки неолитической эпохи на берегах р. Западного Буга в среднем его течении // Тр. одиннадцатого Археологического съезда в Киеве, 1899. М., 1901. Т. 1.

**БЕНЕВІЧЫ,** стаянка каменнага і бронзавага вякоў каля в. Беневічы Лідскага р-на. На паўн.-ўсх. ускраіне вёскі, на выступе паміж правым берагам Нёмана і поймай р. Дзітвы. Пл. каля 400 м². Абследавалі ў 1957 Н. М. Гурына і Ф. Д. Гурэвіч, у 1957, 1961 абследавала 50 м² Гурына. Культурны пласт да 0,8 м. Выяўлены рэшткі агнішча, невял. яма з вохрай, крамянёвы інвентар эпохі мезаліту (наканечнікі стрэл свідэрскага тыпу, ланцэтападобныя вастрыі, трапецыі, двухпляцовачныя прызматычныя нуклеусы) і позняга неаліту (трохвугольныя наканечнікі стрэл, авальна выцягнутыя рубячыя прылады, скрабкі на адшчэпах), абломкі гліняных арнаментаваных гаршкоў, якія адносяцца да 3 этапаў нёманскай культуры (дубічайскі, лысагорскі і дабраборскі). Знойдзены шліфаваныя крамянёвыя сякеры і абломкі посуду культуры шнуравой керамікі бронзавага веку.

*Літ.:* 288. *М. М. Чарняўскі.*

**БЕРАГАВАЯ СЛАБАДА,** познамезалітычная стаянка каля в. Берагавая Слабада Рэчыцкага р-на. На зах. ускраіне вёскі, за 200 м ад Дняпра ўздоўж берага на працягу 1 км. Выявіў у 1977 і даследаваў у 1978—83 У. П. Ксяндзоў. Культурны пласт 0,3 м, у верхняй частцы разбураны ворывам. На пл. 975 м² ускрыта частка мезалітычнага гаспадарча-бытавога комплексу (рэшткі агнішчаў, паглыбленага ў зямлю прамавугольнага жытла памерам 4,3×3,8 м, ямы закругленай і авальнай формы). Знойдзена каля 7 тыс. прылад, выраблених з крэйдавага («сожскага») крэменю шэрага колеру, кварцыту: сіметрычныя і асіметрычныя тронкавыя постсвідэрскія наканечнікі стрэл, канцавыя скрабкі, сярэдзінныя, бакавыя і вуглавыя разцы, праколкі, скоблі, свердлы, укладышы, сякеры і інш. Датуецца 6—5-м тысячагоддзямі да н. э.

*Літ.:* 616, 619. *У. П. Ксяндзоў.*

**БЕРАГОЎЦЫ,** курганны могільнік *банцараўскай культуры* каля в. Берагоўцы Шчучынскага р-на. У лесе, паміж вёскамі Берагоўцы і Сарокі. 22 насыпы выш. 0,8—1,9 м, дыям. 5—12 м. Даследавала ў 1960 К. Т. Кавальская, абследаваў у 1975 М. А. Ткачоў. У адным насыпе выяўлена пахаванне з абрадам трупаспалення. Знойдзены ляпная кераміка і жал. прадметы (нажы, В-падобныя спражкі і інш.). Датуецца 6—8 ст.

**БЕРАСЦЕНАВА,** стаянка *грэнскай культуры* каля в. Берасценава Аршанскага р-на. За 500 м на З ад вёскі, на першай надпоймавай тэрасе Дняпра, за 200 м ад ракі. Памеры 200×70 м. Выявіў у 1984 і даследаваў 859 м² у 1987—88 У. П. Ксяндзоў. Культурны пласт 0,2—0,5 м, у верхняй частцы разбураны ворывам. Выяўлены рэшткі пабудоў, агнішчаў. Знойдзены вырабы з кварцыту і крэменю дрэннай якасці: сіметрычныя і асіметрычныя наканечнікі стрэл з пласцін, авальныя і канцавыя скрабкі, сярэдзінныя, бакавыя і вуглавыя разцы, а таксама праколкі, скоблі, зубчастыя прылады, сякеры, нуклеусы, пласціны.




Да арт. **Бельчыцкія храмы.** Паўночная і паўднёвая сцены Барысаглебскай царквы.



**Бельчыцкія храмы.** Рэшткі Барысаглебскай царквы 12 ст.




Крамянёвыя наканечнікі стрэл (1, 2, 7), вастрыі (3, 4), разец (5), скрабок (6) са стаянкі **Берагавая Слабада.**

…шчэпы. Датуецца 9—8-м тысячагоддзямі да н. э.

*Літ.:* 623. *У. П. Ксяндзоў.*

**БЕРАСЦЯНКА,** невялікая пасудзіна з бяросты для захоўвання мёду, прыпраў і інш. прадуктаў. На Беларусі вядома па знаходках 12—13 ст. у культурным пласце стараж. Гродна і Віцебска. Выраблялася з суцэльнага кавалка бяросты.

Гарадзенская Б. выш. 18 см, дыям. донца каля 12 см, на знешніх баках вострым прадметам (трубачкай або цвіком) нанесены 4 княжацкія знакі. Віцебская Б. мае памеры донца 26×28 см, па краях з адтулінамі для лазовых дубчыкаў. Б. часта аздаблялі тиснёным узорам у выглядзе сеткі, хваёвых лапак, кружкоў і кропак. У 19—20 ст. выраблялі Б. з вечкам.

*Літ.:* 486.

**БЕРАСЦЯНЫЯ ГРАМАТЫ,** пісьмы, запіскі і дакументы 11—15 ст. на бяросце, выяўлены пры раскопках стараж.-рус. гарадоў. Літары надрапвалі завостранай касцяной ці жал. палачкай — *пісалам* на тым баку бяросты, які прылягаў да дрэва. Б. г. сведчаць, што на Русі і ў Вял. кн. Літоўскім пісьменнасць была пашырана не толькі сярод феадалаў, духавенства, але і сярод простых гараджан. Усяго вядома 750 Б. г., у т. л. з Ноўгарада (у 1951 знойдзена першая), Старой Русы (23 граматы), Смаленска (10), Пскова (4). На тэр. Беларусі Б. г. выяўлены ў Віцебску і Мсціславе. Асн. тэма Б. г. 11—12 ст.— крэдыторства, аддача грошай у доўг пад працэнты ці патрабаванне вярнуць яго. Гал. змест Б. г. 13—15 ст.— валоданне зямлёй, клопаты пра сяўбу ці ўборку збожжавых, даходы з прамысловых угоддзяў, феад. павіннасці, абавязацельствы, завяшчанні. Б. г. 13—14 ст. знойдзена ў Віцебску ў 1959. Яе тэкст: «От Степана къ Нежилови. Оже еси продалъ порты, а купи ми жита за 6 гривенъ. А ли цего еси не продалъ, а посли ми лицемь. А ли еси продалъ, а добро сътворя у купи ми жита» (Ад Сцяпана да Няжылы. Калі ты прадаў адзенне, то купі мне жыта на 6 грыўняў. А калі чаго не прадаў, то прышлі мне ў наяўнасці. Калі ж прадаў, то, будзь ласкаў, купі мне жыта). Зберагаецца ў Віцебскім абл. краязнаўчым музеі. У 1980 у Мсціславе Л. В. Аляксеевым знойдзены фрагмент 2-й на Беларусі Б. г. пач. 13 ст. Захаваліся 2 радкі: у першым гаворыцца пра пшаніцу на суму 4,5 грыўні, у другім — пра нейкага Сямёна. Захоўваецца ў Мсціслаўскім краязнаўчым музеі. Адна наўгародская Б. г. 11 ст. напісана Жыравітам, жыхаром Полацка, Смаленска або Віцебска. У асобных наўгародскіх Б. г. упамінаюцца «Гавъко Полоцанино» (жыхар Полацка), справа якога разбіралася ў судзе, і палонны, выкуплены з Полацка. У Б. г. трафарэтны пачатак: ад каго і каму пасылаецца або хто каго вітае. Звесткі, якія даюць Б. г. ў галіне фанетыкі, марфалогіі і сінтаксісу, каштоўныя для гісторыі мовы. Для мовы грамат


**Берасцянка** з княжацкімі знакамі 12—13 ст. Гродна (справа — фрагмент).


Княжацкія знакі Рурыкавічаў на берасцянцы 12 ст. Гродна.


Агульны выгляд раскопу паселішча-1 **Бердыж.**



Крамянёвыя праколкі (1—3), наканечнікі стрэл (4, 5, 8), вастрыі (6, 7, 9—13) са стаянкі **Берасценава.**


**Берасцяная грамата** 13—14 ст. Віцебск

характэрна адсутнасць царкоўнаславянскай кніжнай лексікі.

*Літ.:* 55, 327, 1394. *Г. В. Штыхаў.*

**БЕ́РДЫЖ,** група археал. помнікаў каля в. Бердыж Чачэрскага р-на.

Паселішча-1 эпохі верхняга палеаліту. За 3 км на Пд ад вёскі, за 0,5 км на Пд ад в. Падлужжа, ва ўрочышчы Калодзежкі, на паўд. пакатым схіле яра, урэзанага да цокаля другой надпоплаўнай тэрасы правага берага р. Сож. Прыдалінны ўчастак шыр. на месцы паселішча 150—200 м, уяўляе сабой спадзісты карэнны схіл даліны выш. 15—20 м над летнім межанным узроўнем вады ў рацэ. Адкрыў у 1926 К. М. Палікарповіч, даследавалі ў 1927 С. М. Замятнін, у 1928—29, 1938—39 Палікарповіч, у 1958—60, 1967, 1969, 1970 У. Дз. Будзько, у 1971 А. Г. Калечыц, раскапана 380 м² пл. Культурны пласт 0,3—0,7 м. Выяўлены рэшткі 4 жытлаў і 5 гасп. ям, у будаўніцтве якіх выкарыстаны чарапы, буйныя плоскія і трубчастыя косці маманта і інш. жывёл. Першае жытло размешчана ва ўсх. частцы паселішча, уяўляла сабой авал памерам 5,5×4,5 м, заглыблены ў мацярык на 0,5—0,6 м, на вонкавым краі якога размешчаны 13 чарапоў маманта, паміж імі прасочаны рэшткі сценак. У цэнтры жытла былі рэшткі адкрытага агнішча. Другое жытло размяшчалася на ПдЗ ад першага, уяўляла сабой паўавал памерам 7,5×4 м (даследавана паўн. частка жытла). Для пабудовы фундамента выкарыстана 10 чарапоў і больш за 40 трубчастых і плоскіх касцей мамантаў. Трэцяе жытло размяшчалася на ПдЗ ад другога, уяўляла сабой падоўжны авал памерам 11,5×5,5 м, сцены якога ўтваралі плоскія косці, пастаўленыя вертыкальна, і трубчастыя косці, пакладзеныя адна на адну гарызантальна або пастаўленыя вертыкальна. Падпоркамі для іх служылі чарапы маманта. У сярэдзіне жытла было адкрытае агнішча памерам 2×1,6 м. Чацвёртае жытло размяшчалася на Пн ад трэцяга, авальнай формы, памерам 8×4,5 м, было складзена ў асноўным пастаўленымі вертыкальна плоскімі касцямі маманта, а таксама спалучэннямі трубчастых касцей з чарапамі. Гасп. ямы дыям. 2,4—3 м, глыб. 0,6—0,8 м выкапаны ў мацерыку ніжэй дзённай стараж. паверхні, абкладзены буйнымі касцямі мамантаў, зверху накрыты біўнямі. На паселішчы знойдзены крамянёвыя наканечнікі коп'яў з бакавой выемкай, бакавыя, сярэдзінныя і вуглавыя разцы, нажы касцёнкаўскага тыпу, нажы-кінжалы, скрабкі, пласцінкі з прытупленым рэтушшу краем, вастрыі тыпу гравет, рэтушоры, адбойнікі, нуклеусы, прылады сякерападобных форм і інш. Знойдзены пласціны з біўня маманта з геаметрычным арнаментам, характэрным для помнікаў касцёнкаўска-вілендорфскай культуры. Паселішча адно з самых стараж. на тэр. Беларусі, яго ўзрост — 27—25 тыс. г. Абсалютнае датаванне: першае 23 430±180 і другое 24 000 г. назад; помнік адносіцца да касцёнкаўска-вілендорфскай культуры.

Паселішча-2. За 0,5 км на Пн ад вёскі, ва ўрочышчы Кокаўня. Адкрыў у 1926 і абследаваў у 1954 Палікарповіч, абследавала ў 1978 Калечыц. Культурны пласт на дзюнападобным узвышшы ў агаленнях 0,15 м прасочаны на пл. 150 м². Знойдзены крамянёвыя нуклеусы, пласціны, адшчэпы, скрэблы, ромбападобны наканечнік стралы, фрагменты ляпной керамікі эпохі неаліту і бронзавага веку.

Курганны могільнік *радзімічаў.* За 0,1 км на З ад вёскі. Каля 50 насыпаў выш. 1—2,5 м, дыям. 6—9 м. Адкрыў у канцы 19 ст. Е. Р. Раманаў, абследавалі ў 1928 Палікарповіч, у 1976 М. А. Ткачоў. Палікарповіч ускрыў 3 курганы, у 2 выяўлена пахаванне на гарызонце, у адным — у падкурганнай яме. Датуецца 10—13 ст.

*Літ.:* 169, 172, 919.

*У. Дз. Будзько, М. А. Ткачоў.*

**БЕ́РШТАЎСКІ МАНЕ́ТНЫ СКАРБ.** Знойдзены на беразе воз. Берштаўскае каля в. Бершты Шчучынскага р-на ў 1889. Змяшчаў каля 6000 білонных і медных манет. Рэч Паспалітая. Паўтаракі 1624—26 Зыгмунта III Вазы, польская (каронная) чаканка; шэлегі-*бараціні* 1659—66 Яна II Казіміра, літ. і польская чаканка, драпелькеры 1633 Густава II Адольфа



Паселішча-1 **Бердыж.**



Скопішча касцей маманта на паселішчы-1 **Бердыж** (раскопкі 1928).

*Сучаўскі манетны двор* з адзнакай эльблёнгскага манетнага двара. Ухаваны ў 2-й пал. 1660-х г. Адзін з найб. буйных манетных скарбаў 17 ст. на Беларусі (гл. таксама *Зачэпіцкі манетны скарб, Лактышоўскі манетны скарб, Лікоўскі манетны скарб, Маросьнкаўскі манетны скарб*).

*Літ.:* 1722.

**БЕРШТЫ**, група стаянак у ваколіцах в. Берешты Шчучынскага р-на.

Стаянка-1 ранняга перыяду *нёманскай культуры.* У цэнтры вёскі, на паўд.-ўсх. беразе воз. Берштаўскае. Часткова знішчана. Выявіў і абследаваў у 1967 М. М. Чарняўскі. Культурны пласт 0,5 м. Знойдзены крамянёвыя прылады працы і фрагменты гаршкоў з раслінным дамешкам у гліне. Датуецца 4-м тысячагоддзем да н. э.

Стаянка-2 бронзавага веку. На Пд ад возера, на правабярэжнай поплаўнай дзюне. Выявіў у 1967 Чарняўскі.

Стаянка-3 эпохі мезаліту. На востраве возера. Выявіў у 1958 Л. С. Клейн.

**БЕЧЫ** гарадзішча балотнага тыпу мілаградскай і зарубінецкай культур каля в. Бечы Жыткавіцкага р-на. За 1 км на Пд ад вёскі, на правым беразе р. Сцвіга, у лясным урочышчы Гарадзец. Плошча 9,5 га (самае вял. на Беларусі гарадзішча). Вядома з канца 19 ст., абследавалі ў 1928 А. Дз. Каваленя, С. С. Шутаў, у 1961, 1974 Л. Д. Побаль. Падзелена валам (выш. 1—2 м, шыр. 10—12 м, у зах. частцы разбураны) на заходнюю (2,6 га) і ўсходнюю (6,8 га) пляцоўкі, умацаваныя агульным валам даўж. 1,41 км. З паўн.-зах. і паўд. бакоў на пляцоўках прасочваюцца сляды ўваходаў. Культурны пласт 0,1—0,2 м, слаба выражаны. Выяўлены рэшткі грубаляпной керамікі. Гарадзішча не было заселена чалавекам і, верагодна, у стараж. часы з'яўлялася сховішчам жыхароў навакольных паселішчаў.

*Літ.:* 899, 904. *Л. Д. Побаль.*

**БЕШАНКОВІЦКІ ГІСТОРЫКА-КРАЯЗНАЎЧЫ МУЗЕЙ.** Адкрыты ў 1987. Мае каля 120 прадметаў археалогіі (1991): касцяныя наканечнікі стрэл, каменныя і рагавыя сякеры, каменная шліфаваная пліта, падвескі з бурштыну і іклаў жывёл, бівень мамалта, абломкі чарапных касцей і рогі дарослага і маладога быка-тура, фрагменты гліняных гаршкоў з раскопак курганных могільнікаў каля в. Давыдкавічы, Крупеніна, стаянкі *Асавец.* Дэманструюцца карты археал. помнікаў раёна, стаянак Крывінскага тарфяніка, фотаздымкі стаянак, раскопак, знаходак. У нумізматычнай калекцыі медныя капейкі Пятра I і сярэбраныя 1911—14.

**БЕЛІНГ**, гл. ў арт. *Позналедавіковае.*

**БІБІНА**, гарадзішча *днепра-дзвінскай культуры* каля в. Бібіна Гарадоцкага р-на. За 1,5 км на Пн ад вёскі, за 2 км на З ад воз. Задрачча, на гары выш. 25 м. Мясц. назва Талерка. Пляцоўка круглая, дыям. да 46 м. На схілах гары выяўлены рэшткі вала выш. да 0,5 м. З Пд захаваўся роў глыб. да 2 м. Вядома з 1969, даследаваў у 1973 Г. В. Штыхаў, абследавала ў 1981 В. М. Ляўко. Культурны пласт 1,5 м. Знойдзена кераміка, косці жывёл. Датуецца 6—2 ст. да н. э.

**«БІБЛІЯГРАФІЯ ПА ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ»**, даведачны бібліяграфічны паказальнік асн. прац па гісторыі Беларусі дасавецкага часу. Выдадзены ў 1969 у Мінску. Змяшчае бібліяграфічныя звесткі пра летапісы, хронікі, зборнікі дакументаў, вучоныя запісы са зборнікаў, часопісаў, кніг на бел., рус., укр. мовах, выдадзеных з 1809 да 1966. У кнізе названы таксама працы па гісторыі Расіі, Літвы, Украіны, якія закранаюць асобныя пытанні гісторыі Беларусі. Уключаны найб. важныя работы па археалогіі, у т. л. пра рассяленне славян, стараж.-рус. плямён, помнікі сярэдняй і паўн. Беларусі, паселішчы 1-га тысячагоддзя н. э., курганы 10 — 13 ст., планіроўку і забудову раннефеадальных гарадоў (Брэст, Ваўкавыск, Навагрудак, Пінск, Полацк і інш.), майстроў залатых і сярэбраных спраў 12—17 ст., мастацкія вырабы кастарэзаў стараж. гарадоў, нумізматычныя знаходкі, тапаграфію скарбаў 9—13 ст. і інш.

**БІБЛІЯГРАФІЯ САВЕЦКАЙ АРХЕАЛОГІІ**, даведачныя бібліяграфічныя паказальнікі «Савецкая археалагічная літаратура», якія выпускае Бібліятэка АН СССР сумесна з Ін-там археалогіі АН СССР, ахопліваюць сав. літаратуру па археалогіі з 1918 да 1978 (1965—86). Змяшчаюць пералік практычна ўсіх айчынных, у т. л. і беларускіх, навук. выданняў па археалогіі, а таксама працы па этнаграфіі, мовазнаўству, дапаможных гіст. дысцыплінах, тэматыка якіх закранае праблемы археалогіі: геральдыцы, гіст. геаграфіі, нумізматыцы, сфрагістыцы, эпіграфіцы, інш. дысцыплінах (палеабатаніцы, палеаграфіі, палеазаалогіі, чацвярцічнай геалогіі). Змяшчаюць таксама рэцэнзіі на археал. даследаванні і працы сав. археолагаў, апублікаваныя ў замежных выданнях. *А. А. Егарэйчанка.*

**БІКЛАГА,** баклага, бандарны і ганчарны посуд для працяглага транспартавання вадкасці (вада, квас). З клёпак выраблялася бандарная Б. двухдонная, пляскатай формы, невял. памераў, з адтулінай збоку (затыкалася шпунтам) і вушкамі для падчэпкі на рамяні. У Віцебску і Слуцку знойдзены клёпкі і донцы 13 ст. У Брэсце выяўлена цэлая Б. 13 ст.: корпус авальнай формы выдзеўбаны з хваёвага ствала, у верхняй вузкай частцы свідраваная адтуліна дыям. 2 см, побач з якой у спец. патаўшчэнні прасвідраваны перпендыкулярныя да корпуса адтуліны для падчэпкі на рэмень. Даўж. яе 27 см, выш. 26 см, шыр. 10—14 см, ёмістасць 4 л. Ганчарная Б. найчасцей мела дыскападобную форму на кароткіх ножках, з кароткім і вузкім горлам і невял. ручкамі (у патаўшчэннях па баках зроблены адтуліны для падчэпкі), ёмістасць да 1 л.

Каб падчэпка трымалася пад корпусам пасудзіны, на бакавых гранях Б. рабілі неглыбокі жалабок. Б. звычайна пакрывалі зялёнай палівай. Знойдзены на раскопках Верхняга і Ніжняга замкаў Віцебска, у Крычаве, Мінску, Слуцку і інш.

*Літ.:* 486, 702, 1105.

*Л. У. Калядзінскі.*

**БІМЕТАЛІЗМ** (ням. Bimetallismus), адначасовае выкарыстанне ў грашовай сістэме з роўнымі правамі двух каштоўных металаў — золата і серабра, якія выконваюць функцыю меры вартасці (гл. *Грошы*). Характэрны для грашовых сістэм 19 ст. Суадносіны паміж коштам абодвух металаў рэгламентаваліся дзяржавай.

Спробы стабілізацыі гэтых суадносін былі безвыніковымі, а рэзкае ўзрастанне гандлёвага абарачэння, абясцэньванне серабра абумовіла ў канцы 19 ст. пераход да залатога *монаметалізму.* Часам тэрмін «Б.» недакладна ўжываюць замест тэрміна *паралелізм.*

**БІРУЛІ**, археал. помнікі каля в. Бірулі Докшыцкага р-на.

Гарадзішча культуры штрыхаванай керамікі. За 2 км на Пд ад вёскі, на стрэлцы доўгага ўзгорка выш. 10 м. Мясц. назва Шведская Гара. Пляцоўка роўная, авальная, яе памеры 56×48 м. З У і ПдУ да яе прымыкае вялікая, месцамі забалочаная пойма воз. Медзазол. З Пн умацавана валамі і ровам. Унутраны вал дугападобны (шыр. каля асновы 7 м, выш. 0,6—0,7 м), два другія (шыр. 10—12 м, выш. 1,5—2 м) умацоўваюць гарадзішча з ПнЗ і ПнУ. На вяршыні ўзгорка валы канцамі заходзяць адзін за адзін і ўтвараюць своеасаблівы калідор, які, магчыма, быў уваходам на пляцоўку. Паміж пляцоўкай і валам выкапаны роў (глыб. 2,3 м, шыр. 12—13 м). Паўн.-ўсх. вал у напрамку на Пд пераходзіць у тэрасу (шыр. 3—3,5 м), якая паступова становіцца схілам. Абследавалі ў 1938—39 Г. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіч, у 1971 А. Р. Мітрафанаў. Культурны пласт у цэнтры пляцоўкі каля 0,3—0,4 м, па краях 1—1,3 м. Знойдзены абломкі штрыхаваных пасудзін, кавалкі шлаку,

абпаленыя камяні. Датуецца 3—2 ст. да н. э. — 4—5 ст. н. э.

Курганны могільнік крывічоў. За 100—150 м на Пд ад вёскі, на зах. беразе воз. Медзазол, на вял. узвышшы з пакатымі схіламі. 130 круглых (выш. 0,5—3 м, дыям. 4 — 12 м) і падоўжаных (даўж. 8—15 м, шыр. 6—8 м, выш. 1,2 — 1,5 м) курганоў. Уздоўж асновы курганоў прасочваюцца раўкі. Даследавалі 4 курганы ў 1938—39 Цэгак-Галубовіч і Галубовіч, абследаваў у 1971 Мітрафанаў. Пахавальныя абрады — трупаспаленне (3) і трупапалажэнне (1). Знойдзены ляпныя пасудзіны, крэсіва, шкляныя пацеркі, наканечнік кап'я, двухшыпавы наканечнік стралы. Датуецца 10—13 ст.

*Літ.:* 241. *А. Р. Мітрафанаў.*

**БІРУ́ЛЯ** Іван Вікенцьевіч (н. 16.4.1924, б. хутар Агароды Смалявіцкага р-на), беларускі археолаг. Скончыў БДУ (1953). З 1953 дырэктар Брэсцкага абл. краязнаўчага музея, з 1964 выкладчык палітэканоміі і грамадазнаўства Брэсцкага тэхнікума і СПТВ № 27 чыгуначнага транспарту. У 1959—62 даследаваў 122 курганы на могільніках *Войская, Гуркі, Кусічы, Свішчова, Трасцяніца, Хацінава, Шастакова,* у т. л. 31 курган у *Ратайчыцах.*

*Тв.:* Каменные курганы правобережья Западного Буга // Древности Белоруссии: Материалы конф. по археологии Белоруссии и смежных территорий (1966). Мн., 1966; Северная граница распространения «парных» курганов // Археологические открытия 1965 года. М., 1966; Курганы у дер. Ратайчицы // Древние славяне и их соседи. М., 1970 (Материалы и исслед. по археологии СССР; № 176).

**БІ́ТА**, прадмет для старадаўняй гульні ў косці, зроблены з астрагала (каленная косць) лася, каня, каровы. З боку паглыбленай паверхні ў натуральную выемку косці залівалі свінец (для замацавання залўкі рабілі да 5 адтулін у выемцы — вялікая ў цэнтры, меншыя вакол яе), што рабіла Б. цяжэйшай у 2—3 разы. Цэлыя Б. і загатоўкі знойдзены пры археал. раскопках у большасці сярэдневяковых гарадоў (Браслаў, Брэст, Ваўкавыск, Віцебск, Лукомль, Полацк і інш.).

*Літ.:* 46, 425, 702, 1346, 1347.

**БЛО́МБЕРГ** (Blomberg) Марыя Магдалена (н. 14.11.1936, в. Ванвольніца Люблінскага ваяводства, Польшча), польскі археолаг і гісторык. Д-р гуманістычных навук (1987). Скончыла Лодзінскі ун-т (1961). У 1957—73 супрацоўніца кафедры археалогіі Лодзінскага ун-та, з 1973 у Ін-це гісторыі матэрыяльнай культуры Польскай АН. Вывучае польска-рус., польска-бел. і польска-укр. сувязі ў гісторыі навук. кантактаў да 1917 па праблематыцы археал. даследаванняў, удзел польскіх археолагаў (у т. л. ураджэнцаў Беларусі, якія пісалі на польскай мове) у дзейнасці рус. археал. т-ваў і з'ездаў (Я. Тышкевіча, К. Тышкевіча, А. Плятара, А. Кіркора, Я. Завішы, Э. Гутэн-Чапскага, А. Пшаздзецкага, В. Шукевіча і інш.). Прасачыла лёс вучоных-выгнаннікаў, якія аказаліся ў ссылцы, паказала іх дзейнасць па вывучэнні розных рэгіёнаў Расіі (І. Чэрскі, Б. Дыбоўскі, Ю. Талька-Грынцэвіч, М. Вітковскі і інш.). Аўтар манаграфіі «Палякі — члены расійскіх археалагічных таварыстваў 1839—1914» (1988).

*Г. А. Каханоўскі.*





**Біты** 12—13 ст. Полацк.

**БО́ГІНА**, курганны могільнік каля в. Богіна Браслаўскага р-на. На паўн. беразе воз. Богінскае, справа ад дарогі з в. Вусце ў в. Плятарова. Налічваў больш за 10 насыпаў выш. 0,6—0,8 м, дыям. 5—6 м. Раскопкі праводзілі ў 1886 У. Плятэр, у 1895 3 курганы даследаваў Ф. В. Пакроўскі, у 1978 і 1981 абследавала Л. У. Дучыц. Пахавальныя абрады — трупаспаленне і трупапалажэнне.

Знойдзены крэсівы, серпападобныя скроневыя кольцы, падкоўпападобныя фібулы, трапецападобныя падвескі, ланцужкі, бронзавыя спіралепадобныя пранізкі, пярсцёнкі, шыйныя грыўні, шкляныя пацеркі, ляпны посуд. Належаў балта-славянскаму насельніцтву. Датуецца 8—11 ст.

*Літ.:* 916.



Г. А. Бонч-Асмалоўскі.

**БОНЧ-АСМАЛО́ЎСКІ** Глеб Анатолевіч [22.10(3.11).1890, маёнтак Блонь Ігуменскага пав. Мінскай губ. (цяпер в. Блонь Пухавіцкага р-на) — 1.11.1943], антраполаг і археолаг. Д-р гіст. навук (1942). Скончыў Мінскае камерцыйнае вучылішча, Петраградскі ун-т (1923). У 1924—30 асістэнт кафедры антрапалогіі Ленінградскага універсітэта. З 1930 навук. супрацоўнік Геалагічнага ін-та АН СССР і Дзярж. акадэміі гісторыі матэрыяльнай культуры. У 1926—27 і 1934 разам з К. М. *Палікарповічам* займаўся пошукамі палеалітычных паселішчаў на Гомельшчыне і Смаленшчыне (*Бердыж,* Гамкава, Каменная Гара). Удзельнік этнагр. і археал. экспедыцый на Каўказе і ў Крыме. У час раскопак у пячоры Кііх-Каба (Крым, 1923—24) упершыню на тэр. СССР выявіў рэшткі выкапнёвага чалавека — неандэртальца, прылады працы ранняга палеаліту. Знойдзеныя ім крамянёвыя скульптурныя выявы чалавека маюць узрост больш за 50 тыс. г., з'яўляюцца першымі ў гісторыі чалавецтва прадметамі мастацтва. Выказаў ідэю пра пераход продка

чалавека да наземнага спосабу жыцця задоўга да пераатварэння калпы ў чалавека. Аўтар каля 40 навук. прац, якія маюць вял. значэнне для доказу пераемнай сувязі культуры і фізічнага тыпу чалавека ранняга палеаліту. У 1934 па лжывым даносе рэпрэсіраваны і засуджаны на 3 гады, адбываў у лагерах Варкуты. У 1942 рэабілітаваны, зацверджаны ў навук. ступені доктара гіст. навук і званні прафесара. У Айчынную вайну чытаў лекцыі ў Казанскім ун-це. Памёр у Казані.

*Тв.:* Итоги изучения крымского палеолита // Тр. II Междунар. конф. Ассоциации по изучению четвертичного периода Европы. Л. и др., 1934. Вып. 5; Грот Киик-Коба. М.; Л., 1940; Кисть ископаемого человека из грота Киик-Коба. М.; Л., 1941; Скелет стопы и голени ископаемого человека из грота Киик-Коба. М.; Л., 1954. *А. І. Марозава.*

**БО́НЫ** (франц. bon талон, чэк), знакі, прызначаныя для аплаты розных паслуг; від грашовых сурагатаў. На Беларусі вядомы з часоў паўстання 1863—64, калі іх выпускалі адміністрацыі маёнткаў, гандлёвыя фірмы, касы, рэлігійныя абшчыны Брэста, Высокага, Дамачова, Дзярэчына, Камянца, Кобрына, Слуцка і інш. У 1-ю сусветную вайну ў 1915 Б. ў 2 кап. друкаваў грамадзянскі к-т у Навагрудку, абарачаліся *боны германскіх акупацыйных войск 1916, боны вайсковых кааператываў*. П а п я р о в ы я Б.— кароткатэрміновыя абавязацельствы і вэксалі, якія банкі аплочвалі паўнацэннымі грашовымі знакамі, талоны, чэкі, ордэры, распіскі, крэдытныя білеты, знакі розных кааператываў, прадпрыемстваў і ўстаноў для атрымання тавараў і аказання паслуг; таксама папяровыя грошы, што выйшлі з ужытку і сталі прадметам даследаванняў і калекцыяніравання (гл. ў арт. *Баністыка*). М а н е т а п а д о б н ы я Б. (з металу, керамікі, шкла, пластмасы, дрэва, кардону і інш. матэрыялаў) прызначаны для аплаты тавараў і паслуг розных кааператываў, магазінаў, кафэ, клубаў, метро і інш. Адпаведна прызначэнню маюць назвы: Б. кааператыўныя; жэтоны праязныя, гандлёвыя, піўныя, рэкламныя і сатырычныя; маркі карчомныя, гральныя, хлебныя; крыгсгельды (грошы ваеннага часу) і інш.

*Ш. І. Бекціneeў.*

**БО́НЫ ВАЙСКО́ВЫХ КААПЕРАТЫВАЎ**, металічныя і папяровыя знакі, якія выпускаліся ў 1926—39 у Польскай рэспубліцы для вайсковых спажывецкіх т-ваў, створаных у 1919—20 на ўзор расійскіх і французскіх вайсковых кааператываў. Прызначэнне бонаў — кантроль за крэдытамі, якія не маглі перавышаць 50% капіталу т-ва, а з 1933 — 20%. Агульная колькасць кааператываў вагалася ад 200 да 300, на тэр. Зах. Беларусі боны выпускалі кааператывы 3-й (Гродна) і 9-й (Брэст) карпусных акруг, якія складалі шостую частку вайсковых т-ваў. На м е т а л і ч н ы х бонах ( з цынку, алюмінію, медзі, латуні) пазначаўся гарнізон і вайсковая часць (назва або нумар).

З 1937 замест нумароў вайсковых адзінак пазначаліся назвы кааператываў. Вядомы Б.в.к. 7 наміналаў: 5, 10, 20, 50 грошаў, 1, 2, 5 злотых, выкарыстоўваўся звычайна няпоўны іх




**Боны вайсковых кааператываў.** Белы сплаў: 1 злоты, 26-ы уланскі полк. Баранавічы (1); 1 злоты, 82-і пяхотны полк. Брэст (2); 1 злоты, 3-і полк конных стралкоў. Ваўкавыск (3); 1 злоты, 23-і уланскі полк. Гродна (4); 20 грошаў, 83-і пяхотны полк. Кобрын (5); 5 злотых, 84-ы полк. Пінск (6). Жоўты сплаў: 20 грошаў, корпус гарнізона пагранічнай аховы. Клецк (7); 20 грошаў, 25-ы уланскі полк. Пружаны (8).

набор. Сярэдняя эмісія бонаў аднаго каапэратыва дасягала сумы 4—5 тыс. злотых (каля 20 злотых на аднаго яго члена), кошт вытворчасці складаў каля 8% ад сумы выпуску. На бонах сустракаюцца кантрамаркі — знакі афіцэрскіх казіно, даты, знакі, прызначэнне якіх не заўсёды вядома (гл. ў арт. *Контрамаркіраванне манет*). Трапляюцца антыкварныя падробкі металічных бонаў. Зафіксаваны адзінкавыя п а п я р о в ы я боны (трэці санітарны батальён, Гродна, 1926).

*Літ.*: 1645, 1713. *І. І. Сінчук.*

**БОНЫ ГЕРМАНСКІХ АКУПАЦЫЙНЫХ ВОЙСК 1916,** металічныя і папяровыя знакі, якія выпускаліся германскім «Ведамствам Вярхоўнага Галоўнакамандавання Усходу» для абарачэння на акупіраваных тэр. Расійскай імперыі (усх. Польшчы, зах. Беларусі, Літвы, зах. Латвіі). М е т а л і ч н ы я (з жалеза) боны выпускалі наміналамі ў 1 (маса 2,89 г), 2 (маса 5,83 г), 3 (маса 8,75 г) капейкі Берлінскім (*дыферэнт* А) і Гамбургскім (дыферэнт І) манетнымі дварамі. П а п я р о в ы я боны прадстаўлены наміналамі ў 20 і 50 капеек, 1, 2, 3, 10, 25, 100 руб.

*Літ.*: 1620, 1687.



**Боны германскіх акупацыйных войск** наміналам 1, 2, 3 капейкі.

**БОРАЎНА,** гарадзішча днепрадзвінскай і банцараўскай культур каля в. Бораўна Лепельскага р-на. За 1 км на ПнУ ад вёскі, на ўзгорку карэннага берага безыменнай рэчкі. Схілы гарадзішча стромкія, выш. з боку рэчкі каля 10 м, астатнія — 3—6 м. З паўд. боку ўмацавана валам шыр. да 8—9 м, выш. да 2,2 м. Пляцоўка з валам амаль круглая, памерам 37×35 м. Выявіў у 1972 і даследаваў 100 м² пл. ў 1972 і 1976 А. Р. Мітрафанаў. Культурны пласт у цэнтры 0,2—0,3 м, каля вала 1 м. Выяўлены рэшткі жытлаў слупавой канструкцыі і гасп. ям, знойдзены фрагменты ляпной керамікі 6—8 ст., жал. серп, шлакі, косці жывёл. Датуецца 3—5 і 6—8 ст.

**БОРХАЎ,** гарадзішча *мілаградскай культуры* каля в. Борхаў Рэчыцкага р-на. За 3 км на Пд ад вёскі, ва ўрочышчы Баброў хутар, на невысокім пясчаным пагорку ў пойме левага берага Дняпра. Выявіў у 1910 Е. Р. Раманаў, даследавала ў 1955, 1959 В. М. Мельнікоўская (на пл. 34 м²), абследаваў у 1976 Г. В. Штыхаў. Пляцоўка прамавугольнай формы з закругленымі вугламі, памер 60×30 м, па перыметры ўмацавана валам выш. 1 м над узроўнем пляцоўкі, шыр. каля 10 м. Культурны пласт да 0,6 м. Выяўлены рэшткі пабудовы квадратнай формы памерам 3,2×3,2 м, заглыбленай у мацярык на 0,1 м.

У падлозе былі слупавыя ямкі, у паўн. частцы пабудовы — вял. падоўжаная ямка, каля якой ляжалі кавалкі разбітых гаршкоў і некалькі камянёў. Знойдзены жал. посахападобная шпілька з трохвугольнай галоўкай, фрагмент нейкага прадмета, 8 гліняных прасліц (канічнай, круглавата-канічнай, шара- і посудападобнай форм), абломкі гаршкоў з моцна прафіляваным тулавам, шарападобным дном, адагнутым вонкі венчыкам і яйцападобным або авальным тулавам, круглаватым дном і загнутым унутр краем венчыка. Амаль уся кераміка арнаментавана разнастайнымі ямкавымі ўціскannямі па шыйцы або каля краю венчыка.

*Літ.*: 772, 981. *М. І. Лашанкоў.*

**БОТАВА,** стаянкі на паўн. беразе воз. Пагосцкае каля в. Ботава Пінскага р-на.

С т а я н к а-1 эпохі неаліту. За 2 км на Пд ад вёскі, на марэнным узгорку выш. да 4—6 м (цяпер востраў на вадасховішчы). Даўж. да 100 м. Выявіў у 1962 і даследаваў у 1987 У. Ф. Ісаенка. Знойдзены больш за 400 апрацаваных крамянёў і крамянёвых прылад працы, фрагменты ляпных гаршкоў. Датуецца 4—3-м тысячагоддзямі да н.э.

С т а я н к а-2 нёманскай і шнуравой керамікі культур бронзавага веку. За 3 км на ПдЗ ад вёскі, на схіле марэннага ўзгорка выш. 2—4 м. Даўж. больш за 120 м. Адкрыў у 1962 і даследаваў у 1967—70, 1987 Ісаенка.

Выяўлены рэшткі 3 агнішчаў, абкладзеных камянямі. Знойдзены 1250 апрацаваных крамянёў, больш за 190 прылад працы (трохвугольныя наканечнікі стрэл, сярпы, нажы, сякеры, скрабкі, скрэблы і інш.), рэчы ранняга жал. веку, фрагменты каля 20 пасудзін з дамешкамі ў гліне буйназярністага пяску і жарствы.

*Літ.*: 460. *У. Ф. Ісаенка.*

**БРАГІН,** гарадскі пасёлак, цэнтр Брагінскага р-на, на р. Брагінка. За 119 км на ПдЗ ад Гомеля, за 28 км ад чыг. ст. Хойнікі на лініі Хойнікі — Васілевічы, аўтадарогамі злучаны з Хойнікамі, Камарынам. Лоевам.

Д з я д з і н е ц стараж. Б. размяшчаўся на выступе высокага правага берага Брагінкі пры ўпадзенні ў яе безназоўнага ручая. Пляцоўка блізкая да 4-вугольніка, памерам 90×70 м, плошча больш за 0,6 га. З Пн да дзядзінца прымыкала забалочаная пойма левага берага ракі, з З — вял. стаў, утвораны плацінай на ручаі, з Пд — балоты, праз якія пракладзена грэбля, з У да яго прымыкаў пасад «Загароддзе», што пра-




Замчышча г. **Брагін.**



Знаходкі з раскопак **Брагіна.**

спраўся і на левым беразе ручая. Даследаваў у 1977 М. А. Ткачоў, ускрыта 40 м². Культурны пласт у верхняй частцы на глыб. 0,8—1 м моцна перамяшаны ў ходзе перапланіровак. Дзядзінец быў абкружаны па перыметры абарончым валам выш. 5—6 м, шыр. ў аснове каля 10 м. Вал узведзены ў 11 ст., на працягу 12—13 ст. яго падсыпалі не менш як 3 разы, зафіксаваны сляды 2 пажараў у выглядзе попельна-вугальных прапласткаў, рэшткаў згарэлых навальных канструкцый. Каля асновы вала выяўлены рэшткі слупавой частакольнай канструкцыі, якая прадухіляла апаўзанне яго схілаў і, магчыма, выконвала дадатковую абарончую ролю. У шурфах знойдзены матэрыялы 11—18 ст. (кераміка, фрагменты кафлі, курыльныя люлькі). Культурны пласт на дзядзінцы 1,25—3,8 м, пласт эпохі Кіеўскай Русі пачынаецца на глыб. 0,8—0,9 м. На мацерыку ёсць сляды агнішчаў, западзіны і невял. ямкі, знойдзены крамянёвае рубіла і ляпная кераміка *зарубінецкай культуры*. Самая ранняя ганчарная кераміка на дзядзінцы датуецца 11 ст. (венчык з карнізікам і сценкі пасудзін з густым рыфленнем). Сярод знаходак фрагменты чырвонай і белай глінянай керамікі (відаць, кіеўскі імпарт), а таксама пасудзін 12—13 ст., шкляныя бранзалеты аквамарынавага і бутэлечнага колераў, шыферныя прасліцы, касцяныя грэбень трапецападобнай формы, наканечнік стралы і інш.

У культурных напластаваннях перыяду Вял. кн. Літоўскага выяўлена кераміка 14—18 ст.: гаршкападобная тэракотавая кафля, паліваныя каронкі печаў, паліхромная сцянная кафля, баразнаватая цэгла, бела- і чырвонагліняныя курыльныя люлькі, упрыгожаныя арнаментам і клеймамі. На У ад дзядзінца размяшчаўся пасад (на агародах сабраны матэрыял 12—16 ст.). У выніку шурфоўкі на пасадзе за ручаём і ставам на З ад дзядзінца выяўлены матэрыялы 11—18 ст. і фрагмент керамікі 10 ст.





Кафля-«гарадок» 17 ст. з **Брагінскага замка.**





Гаршковая кафля 16 ст. і паліхромная кафля 17 ст. з **Брагінскага замка.**

Стараж. Б. узнік як дрыгавіцкі горад у зоне змяшання дрыгавічоў, палян і севяран. Неўзабаве ён трапіў у залежнасць ад кіеўскіх князёў. Упершыню ўпамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе 1147 «... по том же времени како уже реки сташа пославше Ольгович и Давидовича дружину свою с половцы воеваша Брягин...». Гэта быў паход чарнігаўскіх князёў, каб адпомсціць кіеўскаму кн. Ізяславу Мсціславічу за разрабаванне чарнігаўскіх гарадоў. У 1187 кіеўскі кн. Рурык Расціслававіч падараваў «город Брягин» сваёй нявестцы Верхуславе. З 1360-х г. Б. у складзе ВКЛ, уласнасць вял. князёў, у 15—17 ст. тут існаваў *Брагінскі замак*. У 1574 Б. з воласцю і замкам аддадзены ва ўладанне князю Аляксандру і Міхаілу Вішнявецкім і падзелены «наполы».

*Літ.*: 412, 848. *М. А. Ткачоў.*

**БРА́ГІНСКІ ЗА́МАК,** комплекс драўляна-земляных умацаванняў сярэдневяковага замка 15—17 ст. Размяшчаўся на месцы дзядзінца стараж. *Брагіна*. Пляцоўка памерам 90×70 м, умацавана валам выш. 5—6 м, шыр. у аснове больш за 10 м. Паводле інвентара 1574, на вале былі сцены-гародні з усходамі на бланкаванне, абарончая вежа з боку Брагінкі, 2-ярусная драўляная вежа-брама з вял. святліцай наверсе. Злева ад увахода ў лініі гародняў стаяла драўляная царква св. Тройцы «зо всим нарядом, розным церковным золотом и серебром и книгами». На падворку былі падклецці, спіжарні, пограб і «светлицы в стене». Да замкавай брамы вёў мост на палях, апошняе звяно якога было «ўзводом», г. зн. падымалася з брамы на ланцугах. У 1648 жыхары Брагіна адчынілі браму войску Б. Хмяльніцкага на чале з палкоўнікам Нябабай і Хвяськом. За гэта горад быў разбураны карным атрадам Рэчы Паспалітай, а жыхары пакараны. Замак больш не аднаўляўся і ператварыўся ў гасп. «двор» князёў Вішнявецкіх.

*М. А. Ткачоў.*

**БРАЗГО́ТКА,** званочак, пустацелы металічны шарык з кавалачкамі металу ўсярэдзіне, своеасаблівае ўпрыгожанне дэкаратыўных дэталей адзення ў выглядзе прывесак або гузікаў з вушкам для прывешвання. Лічылася, што Б. засцерагае ад няшчасцяў. На Беларусі вядома ў 10—15 ст., памер 1,5—2,5 см. У 10 — сярэдзіне 12 ст. найб. пашыраны грушападобныя Б. з крыжападобнай прарэззю і косай насечкай у ніжняй частцы. У 11 — пач. 14 ст. вядомы шарападобныя Б., зробленыя з 2 ціснёных палавінак, некаторыя

адлівалі з медзі. У 2-й пал. 13 — канцы 14 ст. Б. выраблялі метадам ліцця па васковай мадэлі з лінейнай прораззю ўнізе і папярочным ліцейным швом. Бронзавыя Б. выяўляны пры раскопках у Ваўкавыску, Лукомлі, Мінску, Полацку, у курганах *Ізбішча, Наўры, Навасёлкі, Плусы* і інш.

*Літ.:* 1067, 1160.

**БРАМА,** архітэктурнае яруснае збудаванне з дрэва, цэглы ці каменю, якое было важным камунікацыйным цэнтрам — уваходам або праездам у горад, замак, двор, манастыр ці іншы замкнёны комплекс пабудоў. Звычайна Б. стаяла ў лініі *абарончых збудаванняў,* была аснашчана дадатковымі фартыфікацыйнымі элементамі, што былі з ёю цесна звязаны або стаялі побач (акаваныя жалезам створкі варот, пад'ёмная герса, мост-узвод і інш.). З абарончай Б. звычайна былі звязаны мост цераз роў (у асноўным напоўнены вадой), перадбрам'е, барбакан, захаб. У залежнасці ад сістэмы абароны Б. ўзмацнялася з флангаў вежамі, бастэямі, *бастыёнамі,* драўлянымі вастраколамі і інш. На Беларусі Б. ўзніклі ў раннім жал. веку (7—6 ст. да н. э.— 7—8 ст. н. э.) як збудаванні, што абаранялі ўваход на гарадзішча. У эпоху Кіеўскай Русі Б. былі, як правіла, 2-ярусныя. У ніжнім ярусе знаходзіўся праезд, у верхнім — байніцы верхняга бою або размяшчалася надбрамная царква. Над варотным праёмам Б., на ўваходзе і выхадзе з яе размяшчалі абразы. Гэтым стараж. жыхары імкнуліся дадаць да магутнасці фартыфікацыйных збудаванняў і абарону боскую, нябесную. Гэтыя традыцыі на Беларусі захоўваліся ў 14—18 ст. Кругласутачную варту ў Б. неслі спец. брамнікі, часам (як у Оршы ў 16 ст.) зборшчык падаткаў — «воротный меркуль». Абавязкам брамнікаў было таксама «свечкі запальваць» каля надбрамных абразоў. З 17 ст. на Б. сталі размяшчаць механічныя гадзіннікі, у вокнах байніц — гарматы. Часам на верхнім паверсе захоўваўся інструмент (рыдлёўкі, тачкі і інш.), неабходны для догляду, рамонту і ўмацаванняў Б. Над дахамі з «банямі» абавязкова ўзнімаліся складаныя «ветранікі» — флюгеры з дзярж. гербам — «Пагоняй». Іх серабрылі і залацілі лепшыя майстры. У кожным горадзе Беларусі Б. мелі свае адметныя назвы: па назве горада, у бок якога з Б. пачыналася дарога (Віленская, Быхаўская, Шклоўская Б. ў Магілёве), па назве ракі ці ручая, што працякалі перад Б. (Завіцебная, Задунайская, Заручайская Б. ў Віцебску), па інш. прыкметах [Уладычная, Спаская, Віленская, Берасцейская Б. ў Пінску; Чарнігаўская і Менская ў Рэчыцы; Цёмная ў Віцебску, Алейная (ад назвы рынку, дзе прадавалі канапляны алей) у Магілёве і інш.]. Цэнтральныя парадныя Б. называліся Красная (Полацк), Каралеўская, ці Трыумфальная (Магілёў). Гарадскія Б. зніклі на Беларусі ў канцы 18 ст. ў сувязі з генеральнай перапланіроўкай гарадоў.

*Літ.:* 1189, 1280. *М. А. Ткачоў.*

**БРАНЗАЛЕТ,** упрыгожанне для рук (у некаторых народаў і ног) пераважна кальцападобнай формы. Носяць звычайна на запясці рукі, часам вышэй локця. Выкарыстоўваўся і ў якасці амулета, узнагароды; вядомы баявыя Б., што засцерагалі руку ад халоднай зброі. Выраблялі з розных металаў, косці, бурштыну, каменю, шкла. На Беларусі вядомы Б. касцяныя і рагавыя эпохі неаліту *(Галоўск),* медныя сярэднедняпроўскай культуры з каванага дроту ці пласцінак *(Рудня-Шлягіна)* і бронзавыя тшцінецкай культуры з завіткамі на канцах. У раннім жал. веку пашыраны бронзавыя і сярэбраныя Б. плямён мілаградскай культуры з плоскім, круглым, трохвугольным, квадратным або вітым стрыжнем, упрыгожаным папярочнымі насечкамі, зерню, вальцамі *(Гарошкаў);* бронзавыя і жал. Б. зарубінецкай культуры спіралепадобныя з завязанымі канцамі і падковападобныя з гладкага і кручанага дроту, часам упрыгожаныя ромбападобным пунсонным арнаментам *(Чаплін);* разнастайных форм Б. днепрадзвінскай і штрыхаванай керамікі культур *(Банцараўшчына, Кімія).* У 10—13 ст. былі пашыраны металічныя Б.: бронзавыя і медныя круглага сячэння з абрубленымі ці патончанымі (у радзімічаў і палачан таксама з раскляпанымі) канцамі, плеценыя, вітыя з завязанымі канцамі, рэльефныя, пласціністыя з канцамі ў выглядзе змяіных або звярыных галовак; у 12—13 ст. выраблялі



Сярэбраны **бранзалет.** 12 ст. Гродна.



Жалезныя **бранзалеты** 10—11 ст. з бескурганнага могільніка Казлоўцы Міёрскага р-на.



Шкляныя **бранзалеты** 11—13 ст. Гомель.





Бронзавыя **бранзалеты** 11—12 ст. Гомель.

тэхнікай *ліцця* лжэкручаныя і лжэплеценыя, вітыя Б. з петлепадобнымі канцамі; рэдка сустракаюцца жал. дротавыя і бронзавыя складанай тэхналогіі (напр., з драцяной асновай, пераплеценай больш тонкім дротам, перавітым сканню). Большасць пласцiністых, літых і некаторыя драцяныя Б. аздоблены разнастайным пунсонным або штампаваным арнаментам. Да рэдкіх знаходак адносяцца створкавыя сярэбраныя (*Вішчынскі грашова-рэчавы скарб*) і білонны Б. з Пінска (выкананы ў тэхніцы ліцця, упрыгожаны несапраўднай зернню і ўстаўкамі з чырвонага шкла). Залатыя Б. выяўлены



Асноўныя формы імпартных (злева) і старажытнарускіх **бранзалетаў**.

ў час раскопак у Полацку (гл. ў арт. *Полацкі рэчавы скарб*) і на Мінскім замчышчы. Акрамя металічных, былі пашыраны шкляныя Б., якія ў часы Кіеўскай Русі прывозілі пераважна з Візантыі. У 11—1-й пал. 13 ст. распаўсюджаны кіеўскія Б., а ў 13—14 ст.— мясцовай вытворчасці. На Беларусі такія Б. пераважна знаходзяць у помніках гар. і ўмацаванага тыпу, зрэдку на селішчах (у 58 помніках). Шкляныя паводле спосабу выканання падзяляюцца на Б. круглага (без дадатковай апрацоўкі), плоскага, паўкруглага і авальнага (дасягалася папярэднім сцісканнем круглаватай загатоўкі спец. прыстасаваннямі), трохвугольнага і квадратнага сячэння, рубчастыя (вырабляліся з дапамогай форм) і розныя тыпы кручаных Б., якія адрозніваюцца папярэдняй апрацоўкай стрыжня да пачатку кручэння: нанясенне на загатоўку рэдкіх баразёнак простымі прыстасаваннямі, адліўка Б. ў рыфленай форме з тонкімі разнымі і частымі баразёнкамі або ў форме з чатырохвугольным сячэннем. Вядомы Б., перавітыя рознакаляровымі шклянымі ніткамі. Зрэдку вітыя Б. выраблялі з трох і больш перавітых паміж сабой шкляных стрыжняў або з двух тонкіх спачатку сціснутых, потым скручаных. Аздаблялі пераважна верхнюю частку Б. часам з пераходам на ніжнюю або ў сярэ-




Гарадзішча старажытнага **Браслава.** План.



Рэчы з раскопак **Браслава.**

дзіну шкламасы, упрыгожвалі і спец. фарбамі. Б. выраблялі са шкла розных колераў ад празрыстых да цёмных адценняў.

*Літ.:* 770, 847, 848, 1131, 1370, 1398.

*Ю. А. Заяц, С. Я. Расадзін, Т. С. Скрыпчанка.*

**БРА́СЛАЎ**, горад, цэнтр Браслаўскага р-на, на берагах азёр Дрывяты і Навята. За 220 км на З ад Віцебска, за 30 км ад чыг. ст. Друя, аўтадарогамі злучаны з Міёрамі, Шаркоўшчынай, Друяй, Відзамі, Даўгаўпілсам.

Гарадзішча стараж. Б. Замкавая Гара знаходзіцца ў цэнтры горада, на перашыйку паміж азёрамі Дрывяты і Навята, на ўзвышшы выш. 14 м. Пляцоўка памерам 200×100 м умацавана валам выш. 3—4 м на ПдУ і 9 м на ПнЗ. Даследаваў у 1955—56 Л. В. Аляксееў, раскапана 400 м² ва ўсх. частцы гарадзішча. У 1989 Г. М. Семянчук і М. А. Ткачоў ускрылі 316 м². Культурны пласт каля валоў да 2 м, у напрамку да цэнтра памяншаецца да 0,25 м, складаецца з трох гарызонтаў. Культурны пласт ніжняга гарызонту (3-я чвэрць 1-га тысячагоддзя — 10 ст.) каля 0,25 м. Яго асаблівасць у тым, што побач з раннеганчарным посудам шмат ляпной керамікі 2-й пал. 1-га тысячагоддзя, тыповай для гарадзішчаў паўн. Беларусі. Аналіз астэалагічных матэрыялаў сведчыць аб перавазе свіней у жывёлагадоўлі, што характэрна для латгальскіх плямён. Ніжні гарызонт аддзелены ад сярэдняга рэшткамі пажарышча 11 ст. (ад 5 да 20 см), аб чым сведчаць знойдзеныя наканечнік суліцы, крэсіва з «язычком», жал. ключ ад трубчастага замка, пярсцёнкападобнае паўтараабаротнае скроневае кольца, шматслойныя нажы. Культурны пласт сярэдняга гарызонту (11 — сярэдзіна 13 ст.) да 0,6—0,7 м. У ім выяўлены рэшткі драўляных пабудоў: адна памерам 4×4 м, у паўн. куце рэшткі печы, адкапаны ніжнія вянкі пабудовы (даўж. сцяны 2,2 м).

Знойдзены шыферныя і гліняныя прасліцы, касцяныя грабяні, жал. крэсівы з «язычком», ключ ад цыліндрычнага замка, нажы, баявая сякера 11 ст., рыбалоўныя кручкі, порхліца з рога, 2 жал. пісалы (2-я пал. 12—13 ст.), каменны нацельны крыжык. Сярод упрыгожанняў скроневыя кольцы (крывіцкае і паўтараабаротнае), шкляныя пацеркі (зонная, сердалікавыя прызматычная і біпірамідальная, блакітная і залаташкляная, бурштынавая), падковападобныя спражкі і фібулы, кручаныя бранзалеты, бронзавыя пярсцёнкі, фрагменты шыйных грыўняў, шкляны бранзалет. Ёсць рэчы, характэрныя для латгальскага насельніцтва: бранзалеты са змеепадобнымі канцамі, бразготкі з прораззю, спіралепадобныя пранізкі, шпількі. Знойдзены: кераміка, характэрная для гарадоў Полацкай зямлі, некалькі донцаў з клеймамі, косці свойскіх і дзікіх жывёл, зерне жыта, ячменю, аўса.

У культурным пласце верхняга гарызонту (канец 13—18 ст.; 0,2—0,5 м) знойдзены літоўская манета «кейстутоўка» 14 ст., грашовы памятны жэтон 1586, металічны нацельны крыжык, ромбападобныя наканечнікі стрэл, абломак шпоры, замкі і ключы ад замкоў, нажы, уступчатая і слабапрафіляваная кераміка, пасудзіны з пукатым тулавам без шыйкі і венчыка ў выглядзе валіка, гаршкі з вертыкальна пастаўленай шыйкай і пукатым круглаватым тулавам. Знойдзена шмат гаршковай і каробчатай кафлі 15—

18 ст., арнаментаванай, з палівай і без яе.

Паводле археал. даследаванняў, Б. узнік у канцы 10 ст. на месцы латгала-слав. паселішча, яго росквіт прыпадае на 11 — 1-ю пал. 13 ст., калі горад меў цесныя сувязі з Полацкам і інш. гарадамі Кіеўскай Русі, Усх. Прыбалтыкай. Інтэнсіўнае жыццё на гарадзішчы спынілася ў 18 ст. Недалёка ад гарадзішча размяшчаўся *Браслаўскі курганны могільнік.* Упершыню Б. упамінаецца ў «Хроніцы Быхаўца», дзе сказана, што ўладанні літ. князя «прасціраліся па мяжу латвійскую і на Завілейскі Браслаў і да самай ракі Дзвіны». Пра тое, што Б. быў горадам Полацкага княства, сведчыць таксама «Хроніка Быхаўца»: «Князь вялікі Кернус і Гімбут, жадаючы пашырыць сваю краіну, сабралі сілы літоўскія і жамойцкія і пайшлі на Русь к Браславу і Полацку». Але ў крыніцы не ўказваецца дата гэтых падзей. Паводле «Хронікі» М. Стрыйкоўскага, апісаныя падзеі адносяцца да 1065. На думку даследчыкаў, горад, верагодна, заснаваны полацкім кн. Брачыславам Ізяславічам [1003—44] як парубежная крэпасць Полацкага княства і названы яго імем.

*Літ.:* 46, 47, 1346. *Г. М. Семянчук.*

**БРАСЛАЎСКІ ГІСТОРЫКА-КРАЯЗНАЎЧЫ МУЗЕЙ.** Заснаваны ў 1984 на базе школьнага музея, адкрыты ў 1988. Мае каля 500 археал. прадметаў (1991), сярод якіх: крамянёвыя пласціны, вастрыі, праколкі, скрабкі, скоблі, рэтушоры, нуклеусы, адшчэпы з паселішча *Дубкі;* жал. і бронзавыя спражкі, скроневыя кольцы, пярсцёнкі з могільнікаў *Бяльмонты* і *Укля;* крэсіва, збруя, сякера, прадметы зброі, рыбалоўныя кручкі, шыферныя праслíцы, фрагменты паліванай кафлі, гузікі, шкляныя бранзалеты і пацеркі, бразготкі, бронзавы энкалпіён, косці жывёл з малюнкамі і рунічнымі надпісамі з гарадзішча *Маскавічы*; грабяні і замкі, выяўленыя пры падводных даследаваннях каля гарадзішча Маскавічы і в-ва Замчышча на воз. Іказнь; курыльныя люлькі, кафля паліваная з выявамі птушак, жывёл і кветак, цацкі-конікі, свістулькі з раскопак у *Друі;* касцяныя прылады працы, фрагменты ляпной керамікі, касцяныя праколкі з гарадзішча *Рацюнкі;* фрагменты ганчарнай керамікі з замчышчаў у Дрысвятах і Іказні.

*Г. С. Падалян.*

**БРАСЛАЎСКІ КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК.** На ўсх. ускраіне Браслава, на беразе воз. Цно, ва ўрочышчы Заборныя Гумны. Раскапаў у канцы 19 ст. 6 насыпаў Ф. В. Пакроўскі. Пахавальны абрад — трупапалажэнне і трупаспаленне. Знойдзены нажы, утулкавыя наканечнікі коп'яў з ланцэтападобнымі клінкамі, сякера, крэсіва, асялок, фібулы падкováпадобныя са спіралепадобнымі канцамі і макападобнымі галоўкамі, пярсцёнкі, ляпны посуд. Могільнік належаў балта-славянскаму насельніцтву. Датуецца 11—12 ст.

*Літ.:* 916.

**БРАЦЯНКА,** курганны могільнік *дрыгавічоў* каля в. Брацянка Навагрудскага р-на. Гл. ў арт. *Навагрудскі курганны могільнік.*

**БРОМБЕРГЕР,** бромер, брумер (ням. Bromberger, Brommer, Brummer ад ням. назвы г. Быдгошч + Bromberg), пашыраная ў Германіі 17 ст., разам з драйпёлькерам, назва польскага *паўтарака,* асн. цэнтрам вытворчасці якога быў г. Быдгошч.



Гузікі 11 ст. з раскопак **Браслава.**



Фібула 11 ст. з раскопак **Браслава.**

**БРОНЗАВЫ ВЕК,** перыяд у гісторыі чалавецтва, калі пашырылася металургія бронзы, з якой выраблялі прылады працы, зброю, упрыгожанні. На некаторых тэрыторыях яму папярэднічаў *энеаліт* (медна-каменны век), калі ўжываліся рэчы з медзі.

Спачатку бронзу выплаўлялі ў краінах Пярэдняй Азіі, Егіпце, Індыі, Кітаі (4—3-е тысячагоддзі да н. э.). У Еўропе бронзавы век прыпадае на 2-е — пач. 1-га тысячагоддзя да н. э. Стараж. капальні медзі, волава, мыш'яку і інш. металаў, з якіх выплаўлялася бронза, знойдзены ў шэрагу краін Зах. і Цэнтр. Еўропы, а на тэр. СССР — у Закаўказзі, Казахстане, Сібіры. Выкарыстанне бронзавых прылад павысіла прадукцыйнасць працы, што вяло да канцэнтрацыі ў руках асобных людзей лішкаў прадуктаў. Пашырыўся абмен паміж рознымі раёнамі. З'явіліся першыя скарбы медных і бронзавых рэчаў. Узнікненне маёмаснай няроўнасці прывяло пазней да распаду першабытнаабшчыннага ладу. У некаторых краінах Міжземнамор'я, Пярэдняй Азіі, у Індыі і Кітаі паявілася рабаўладальніцтва, узніклі дзяржавы, пачасціліся войны як сродак захопу рабоў і маёмасці. У Б. в. на некаторых тэрыторыях адбыўся першы вял. падзел працы — на земляробства і жывёлагадоўлю, пачало вылучацца рамяство. Развіваліся патрыярхальна-радавыя адносіны з пануючым становішчам мужчыны ў сям'і і родзе. У Б. в. Еўропу насялялі плямёны розных археал. культур.

На тэр. Беларусі Б. в. пачаўся на мяжы 3-га і 2-га тысячагоддзяў да н. э. Аддаленасць ад стараж. цэнтраў металургіі была прычынай захавання тут на больш працяглы час каменных прылад працы, аднак апрацоўваліся яны лепш: шырока ўжываліся шліфаванне, свідраванне, пілаванне, апрацоўка крэменю струменістай рэтушшу. Вырабляліся крамянёвыя наканечнікі коп'яў, кінжалы, сярпы. Распаўсюдзілася здабыча крэменю шахтавым спосабам (Краснасельскія шахты ў Ваўкавыскім р-не). Бронзавых рэчаў на тэр. Беларусі мала — шылы, сякеры, наканечнікі коп'яў, упрыгожанні. Мясц. вытворчасць некаторых бронзавых рэчаў з прывазной сыравіны, а таксама пераплаўка сапсаваных вырабаў пачалася з сярэдзіны 2-га тысячагоддзя да н. э. Важнае месца ў гаспадарцы побач з традыцыйнымі паляваннем, рыбалоўствам і збіральніцтвам пачалі займаць земляробства і жывёлагадоўля. Усюды пашырaўся пласкадонны посуд разнастайнага асартыменту — гаршкі, міскі, кубкі, друшлякі, што было выклікана паяўленнем агнішчаў з роўнай чарэнню, сталоў са шчапаных і часаных дошак і больш разнастайнай ежы. З Прыбалтыкі на тэр. Беларусі ў абмен на крэмень трапляў бурштын, з Прычарнамор'я і Каўказа — упрыгожанні з шклопадобнай масы і бронзавыя вырабы. Некаторыя металічныя знаходкі паходзяць з Карпата-Альпійскай вобл. і Скандынавіі. З распаўсюджаннем вытвараючых форм гаспадаркі ўжо ў пачатку Б. в. на Беларусі адбыліся змены ў ідэалогіі, адным з вынікаў чаго сталі пахаванні нябожчыкаў на бескурганных і курганных могільніках. Паяўляецца пахавальны абрад трупаспалення. На могільніках сустракаюцца багатыя і бедныя пахаванні, часам цэнтр. месца ў іх займаюць пахаванні мужчын. У пачатку Б. в. на тэр. Беларусі, заселеную аўтахтонным познанеалітычным насельніцтвам, праніклі плямёны розных культур шнуравой керамікі. Тэрыторыю паўд.-усх. Беларусі, як і суседнія раёны Украіны, занялі плямё-

ны *сярэднедняпроўскай культуры,* на зах. Палессі жылі плямёны *шнуравой керамікі Палесся культуры*, у Панямонні — *прыбалтыйскай культуры.* У Паазер'і развівалася *паўночнабеларуская культура,* што сфарміравалася на неалітычным субстраце і ўспрыняла некаторыя рысы шнуравой керамікі культуры. Узаемаадносіны прышлых плямён і абарыгенаў у Б. в. на тэр. Беларусі характарызаваліся рознымі формамі ўзаемаўплыву і асіміляцыі. Гэтыя працэсы прывялі да фарміравання к сярэдзіне 2-га тысячагоддзя да н. э. *тшцінецкай культуры* ў бас. Прыпяці і на паўд. Панямонні і роднаснай ёй *сосніцкай культуры* ў Падняпроўі, арэал якіх выходзіў на суседнія тэр. Украіны, Расіі і Польшчы. Насельніцтва б. ч. Панямоння ў гэты час выкарыстоўвала посуд са штрыхаванай паверхняй, а на Падзвінні — гладкасценны. У канцы Б. в. пачалі складвацца пачатковыя этапы мілаградскай, штрыхаванай керамікі, днепрадзвінскай культур, росквіт якіх адбыўся ў раннім жал. веку. У Б. в. на тэр. Беларусі сустракаюцца сляды *шматвалікавай керамікі культуры* і *лебядоўскай культуры,* а на ПдЗ — *лужыцкай культуры.*

*Літ.:* 79, 119, 454, 847.

*М. М. Чарняўскі, М. М. Крывальцэвіч.*

**БРУСАЎ** Аляксандр Якаўлевіч [17(29).10.1885, Масква — 1.12.1966], савецкі археолаг. Заслужаны дзеяч навукі РСФСР. Працаваў у Гіст. музеі (Масква), Ін-це гісторыі матэрыяльнай культуры (з 1959 Ін-т археалогіі АН СССР). Вывучаў эпоху неаліту і бронзы на Пн і ПнЗ СССР, у т. л. на Беларусі, паходжанне індаеўрапейцаў і гісторыю плямён шнуравой керамікі культуры, тыпалогію каменных сякер.

*Тв.:* Очерки по истории племён Европейской части СССР в неолитическую эпоху. М., 1952.

**БРЫЦАЛАВІЧЫ,** курганны могільнік *дрыгавічоў* каля в. Брыцалавічы Асіповіцкага р-на. На ўсх. ускраіне вёскі, на правым беразе р. Свіслач. 32 насыпы выш. 0,5—1 м, дыям. 4—9 м. Адкрыў і даследаваў 15 курганоў у 1892 У. З. Завітневіч, абследавалі ў 1926 С. С. Шутаў і М. М. Улашчык, у 1974 А. Р. Мітрафанаў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце (14 насыпаў) і ў яме (1). Знойдзены ганчарны гаршчок. Датуецца 11—12 ст.

*Літ.:* 377




4. Зак. 223

**БРЭ́ЖГА** Баляслаў Рычардавіч (31.3.1887, Рэжыцкі пав. Віцебскай губ.— 30.9.1957), беларускі і латышскі археолаг, гісторык, археограф, палеограф, філолаг, адзін з пачынальнікаў архіўнай справы на Беларусі. Д-р гісторыі (1933). Скончыў Віцебскую гімназію (1910), Маскоўскі археал. ін-т (1916). З 1918 заг. Віцебскага аддзялення гэтага ін-та, у 1922—24 навук. супрацоўнік Віцебскага губернскага архіва. З 1925 жыў у Латвіі. З 1930 праф. кафедры археалогіі Рускага ін-та універсітэцкіх ведаў, з 1937 інспектар Упраўлення помнікаў, у 1940—41 дырэктар Дзвінскага павятовага дзярж. архіва, з 1945 праф. кафедры слав. філалогіі Латвійскага дзярж. ун-та, з 1946 старшы навук. супрацоўнік Ін-та гісторыі і матэрыяльнай культуры АН Латв. ССР. Аўтар больш як 100 навук. прац. Пісаў на латышскай, рус., бел., польскай, ням., французскай мовах, на латгальскім дыялекце. Даследаваў гіст. сувязі беларусаў і латышоў, гісторыю паўстання 1863—64 на тэр. Віцебскай губ., складаў бібліяграфію па гісторыі Беларусі, вывучаў дагаворныя граматы Полацка і Рыгі, Полацкія летапісы, збіраў матэрыялы для параўнальнага аналізу бел. мовы і латгальскага дыялекта, ва універсітэце вёў курс стараж. бел. пісьменства.

*Тв.:* Ініцыялы і арнамент у актавых кнігах Віцебскага архіва старадаўніх актаў XVI—XVIII стагоддзяў // Виленский вестник, 1915; Адносіны палачан і латышоў у VIII—XVIII ст. // Школьная праца. (Дзвінск). 1926. № 1; Ахова помнікаў старажытнасці на Віцебшчыне // Беларуская школа ў Латвіі. (Рыга). 1932. № 4—5, 1933. № 4—6; Замкі Віцебшчыны. Вільня, 1933; Очерки по истории крестьянских движений в Латгалии 1577—1907. Рига. 1956.

*С. С. Панізнік.*

**БРЭСТ** (летапісны Берестье, Берестий, у пісьмовых крыніцах 16 ст.— Берестье, Будзесть), горад абл. падпарадкавання, цэнтр Брэсцкай вобл., на р. Мухавец, пры ўпадзенні яе ў Зах. Буг. Эканамічны і культ. цэнтр, вузел чыгунак і аўтадарог, аэрапорт, рачны порт, звязаны Дняпроўска-Бугскім каналам з басейнамі Дняпра і Прыпяці.

Найбольш стараж., умацаваная частка Б. размяшчалася на мысе, утвораным правым берагам р. Зах. Буг і левым берагам левага рукава р. Мухавец. У час будаўніцтва Брэсцкай крэпасці рэльеф мясцовасці моцна зменены: скапаны абарончыя валы і засыпаны абарончыя равы, што ўскладніла пошукі стараж. горада. Упершыню меркаванне пра яго месцазнаходжанне выказана ў 1964, правільнасць гэтых меркаванняў пацвердзілі археал. даследаванні 1968—69. Археал. даследаванні гарадзішча стараж. Б. праводзіў у 1969—81 П. Ф. Лысенка, ускрыта больш за 1800 м², з іх 528 м² — да мацерыка. Культурны пласт (да 7 м) добра захаваў рэшткі драўляных пабудоў і розныя прадметы з матэрыялаў арганічнага і неарганічнага паходжання (скура, тканіна, дрэва, косць, металы, кераміка, камень і інш.).

Выяўлены рэшткі 224 жылых і гасп. пабудоў, насцілы 3 вуліц, дваровыя вымасткі, платы. Для забудовы Б. характэрна адсутнасць дваровай планіроўкі (выяўлены толькі адзін дваровы комплекс, які складаўся з жылой пабудовы, гасп. двара, павеці і двара для жывёлы). Большасць выяўленых пабудоў — жылыя, значна менш гаспадарчых (клеці), вельмі рэдка сустракаюцца хлявы. Усе пабудовы можна падзяліць на 12 буд. ярусаў, якія паслядоўна змянялі адзін аднаго. Забудова дзядзінца была вельмі шчыльнай, пастаянна разрасталася ад найб. старажытных да больш позніх ярусаў. У канцы 13 — пач. 14 ст. пабудовы часта ставілі на адлегласці 0,5—0,7 м адна ад адной. Вулічныя насцілы і пабудовы ў больш познія часы ўзводзіліся на месцы папярэдніх, на працягу доўгага часу захоўвалі адно і тое ж месцазнаходжанне, арыенціроўку, напрамак і нават памеры. Асновай планіровачнай структуры Б. з'яўляліся вулічныя праезды. Раскопкамі ўскрыты 3 паралельныя вуліцы, што ішлі ў напрамку з У на З, як можна меркаваць, ад аднаго агульнага ўвахода на дзядзінец. Вуліцы шыр. 2,4—4 м мелі шчыльны папярочны насціл з тоўстых колатых дошак, пакладзеных на 2—3 лагі з бярвён, што ішлі ўздоўж напрамку вуліцы і апіраліся ў сваю чаргу на папярочныя бярвёны-падкладкі. Паверх ранейшага насцілу, занесенага з цягам часу смеццем і граззю, будавалі новы так, як і папярэдні. У час раскопак ускрыта да 6 такіх ярусаў вулічных насцілаў адзін на адным, што сведчыць пра стабільнасць планіровачнай структуры стараж. Б. Жытлы размяшчаліся на адлегласці 0,4—0,6 м адзін ад аднаго ў 3—4 рады паміж вуліцамі. Да вуліцы яны выходзілі глухімі сценамі. У радах, што прымыкалі да вуліцы, уваход рабіўся ў сцяне, процілеглай ад вуліцы, у сярэдніх радах — у напрамку вуліцы. Жылыя і гасп. пабудовы былі ў асноўным наземныя, аднапавярховыя, аднакамерныя, зрубнай канструкцыі, памерам 3,6×3,6 — 4×4 м. Іх рубілі, як правіла



Б. Р. **Брэжга.**



Шахматная фігурка з раскопак **Брэста.**





Самшытавы грэбень з кірылаўскім алфавітам (правы і адваротны бакі) з раскопак **Брэста.**

у просты вугал («у абло», у чашку) з круглых бярвён хваёвых парод, дыям. 14—18 см. Трапляюцца пабудовы з часаных бярвён і скошаным на тупы клін астаткам бервяна за «чашкай» Злучальную чашку і паз высякалі з верхняга боку бервяна. Гасп. пабудовы мелі меншыя памеры, часам іх рабілі з дрэў лісцевых парод. Добрая захаванасць рэшткаў пабудоў (да 11—12 вянкоў) дазволіла даволі поўна вывучыць канструкцыю дзвярных (прасякалі ў зрубах з 3—4-га вянка знізу на выш. 6—7 вянкоў, мелі шыр. 0,8—0,9 м, выш. 0,95—1,1 м) і аконных (прасякалі ў 2 суседніх вянках высока пад столлю, шыр. да 60 см) праёмаў. Падлогу рабілі з тоўстых хваёвых дошак, пакладзеных на 2—3 лагі, усечаныя на выш. 2—3-га вянка паралельна або перпендыкулярна сцяне з дзвярным праёмам. Знаходкі т. зв. «какошын» («курыц») сведчаць пра існаванне дашчанага даху. Печы напачатку былі глінабітныя, з 13 ст. сустракаюцца з выкарыстаннем цэглы. Падмуркамі для пазнейшых пабудоў найчасцей служылі рэшткі папярэдніх, асабліва калі поўнасцю супадалі месцараспалажэнне, памеры і арыенціроўка. Зрэдку выкарыстоўвалі падкладкі.

У ходзе раскопак сабрана вял. колькасць страж. рэчаў, якія выраблялa насельніцтва з чорных і каляровых металаў, косці, скуры, гліны, дрэва. Мясцовыя кавалі выконвалі складаныя тэхналагічныя аперацыі пры вырабе прылад працы (сякеры, сярпы, косы), прадметаў хатняга ўжытку (нажы, нажніцы, замкі, крэсівы), узбраення (наканечнікі коп'яў, стрэл, пласціністыя даспехі, амуніцыя конніка і каня). Знаходкі пінцэтаў, каменнай ліцейнай формачкі, сыравіны (свінцу, меднага дроту) сведчаць пра існаванне ювелірнага рамяства. Знойдзена шмат вырабаў з дрэва (бандарны і разны посуд, верацёны, нажныя ступы, прэс для выціскання алею, рала, дэталі ткацкага станка, ільнамялкі і інш.), скураных вырабаў (абутак, кашалькі, ножны). Пра развіццё ганчарнага рамяства сведчаць знаходкі шматлікіх фрагментаў разнастайнага глінянага посуду. Выяўлены шматлікія прылады земляробства і апрацоўкі ўраджаю, рыбалавецкія прылады, косці свойскай і дзікай жывёлы, рыб і інш. Існаванне гандл. сувязей пацвярджаюць знаходкі прычарнаморскіх амфар, кіеўскіх шкляных бранзалетаў, валынскіх шыферных прасліц, прыбалтыйскіх бурштыну і фібул, мазавецкага скроневага кольца, прывазнога свінцу і свінцовых таварных пломбачак. Грабеньчык з алфавітам, пісалы, кніжныя засцежкі, прылады для пісьма, касцяны мастыхін мастака, шахматныя фігуркі, дзіцячыя цацкі і прадметы хрысціянскага культу сведчаць пра высокі ўзровень культуры горада.

Агульнае аблічча матэрыяльнай культуры пацвярджае думку пра заснаванне Б. адным з усх.-слав. плямён — *дрыгавічамі.*

Б. упершыню ўпамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1019 у сувязі з упартай чатырохгадовай барацьбой за Кіеўскі велікакняжацкі прастол паміж тураўскім кн. Святаполкам Уладзіміравічам і яго братам Яраславам, князем наўгародскім. Пасля паражэння ў час уцёкаў за межы Русі Святаполк спыніўся ў Б. У 1022, 1031 і 1044 кіеўскі кн. Яраслаў Мудры рабіў паходы на Б., які, як можна меркаваць, быў заняты палякамі. У «Павучанні» Уладзіміра Манамаха гаворыцца, што ў 1070-я г. яго пасылалі сцерагчы Б., спалены палякамі. У 1097 вял. кіеўскі кн. Святаполк Ізяславіч выгнаў з Б. валынскага кн. Давыда Ігаравіча. У абодвух апошніх выпадках Б. названы горадам, што сведчыць пра існаванне там абарончых збудаванняў. У 1101 і 1102 беспаспяховую спробу захапіць Б. зрабіў Яраслаў Яраполчыч, пляменнік Святаполка Ізяславіча. У 1140 і 1142 на кароткі час горад аддадзены саюзнікам кіеўскага кн. Усевалада Ольгавіча, але ў 1146 зноў вернуты ў Тураўскае княства. З 2-й пал. 12 ст. Б. уваходзіў у склад Уладзіміра-Валынскага княства. На працягу 12—13 ст. летапісы неаднаразова адзначаюць спробы Б. стаць цэнтрам самастойнага княства. У час мангола-татарскага нашэсця паблізу Б. адбылася жорсткая бітва, аднак горад, відаць, не быў захоплены. У 1279 з Б. адпраўлены караван лодак са збожжам у землі ятвягаў, дзе быў голад. З 1272 Б. валодаў валынскі кн. Уладзімір Васількавіч, з 1289 — Мсціслаў Данілавіч. У канцы 13 ст. адбылася спроба галіцкага кн. Льва Данілавіча захапіць Б., аднак луцкі кн. Мсціслаў Уладзіміравіч адстаяў горад. У 1319 вял. князь ВКЛ Гедымін далучыў Берасцейскую зямлю да ВКЛ. Неўзабаве Б. зноў трапіў пад уладу валынскіх князёў. У 1349 горад захапіў польскі кароль Казімір III, але паводле дагавора 1366 Б. вернуты ў склад ВКЛ. У 14 ст. каля сутокаў р. Мухавец з Зах. Бугам на мысавым гарадзішчы пабудаваны *Брэсцкі замак,* а па перыметры тэрыторыі, абмежаванай 2 рукавамі Мухаўца, узведзены *Брэсцкія гарадскія ўмацаванні.* У 1390 Б. першы з бел. гарадоў атрымаў магдэбургскае права. З 1413 Б.— цэнтр Берасцейскага старóства Трокскага ваяводства, з 1520 — цэнтр павета Падляшскага ваяводства, з 1566 — цэнтр Брэсцкага ваяводства. У 1550-я г. брэсцкі староста М. Радзівіл Чорны заснаваў у Б. кальвінскі збор і друкарню, дзе ў 1563 надрукавана Брэсцкая біблія. У 1596 на царкоўным саборы ў Б. абвешчана Брэсцкая унія пра аб'яднанне праваслаўнай царквы з каталіцкай і стварэнне уніяцкай царквы. У 1659 заснаваны *Брэсцкі манетны двор,* які выпускаў дробныя медныя манеты — соліды *(барацінкі).* У час антыфеадальнай 1648—51, Руска-польскай 1654—67 і Паўночнай 1700—21 войнаў Б. неаднаразова займалі рус., шведскія і польскія войскі, горад неаднойчы быў спустошаны і спалены. У 2-й пал. 18 ст. пачалося яго эканамічнае адраджэнне. У 1795 Б. у складзе зах.-бел. зямель адышоў да Расійскай імперыі.



Білонны колт з раскопак **Брэста**.



Касцяное наверша дзяржання з **Брэста**.



Прылады для пісьма і кніжныя спражкі з раскопак **Брэста**.

*Літ.:* 154, 702, 703, 703а, 848.

*П. Ф. Лысенка.*

**БРЭСЦКІ АБЛАСНЫ КРАЯЗНАЎЧЫ МУЗЕЙ.** Заснаваны ў

1950, адкрыты ў 1957. Мае (1991) больш за 47 тыс. прадметаў археалогіі, з іх каля 43 тыс. з раскопак Бярэсця (1991). Сярод экспанатаў крамянёвыя прылады працы (в. Баранцы Жабінкаўскага р-на), касцяныя рытуальная сякера (в. Падлужжа) і матыка (в. Ямна Брэсцкага р-на), каменныя сякеры (з археал. помнікаў Драгічынскага р-на), знаходкі з раскопак Арэхава (Маларыцкі р-н), *Агароднікі, Дубай,* могільнікаў *Велямічы, Брэсцкага бескурганнага могільніка,* скроневыя кольцы, шкляныя пацеркі, пярсцёнак, крэсіва, прасліца з помнікаў Камянецкага р-на. У нумізматычнай калекцыі манеты са скарбаў, знойдзеных у вёсках Лышчыцы (48 экз.) і Кашалёва (99 экз.) Брэсцкага, Кусцічы Камянецкага р-наў (126 экз.), брэсцкія соліды, больш за 80 розных манет Расійскай імперыі 18—20 ст., шкатулка з манетамі (плацінавыя 3 руб., залатыя 3 і 5 руб., таксама сярэбраныя і медныя) і бронзавая дошка, якая была закладзена ў сцяну Брэсцкай крэпасці ў 1836 пры яе заснаванні. Гл. таксама *Археалагічны музей «Бярэсце», Камянецкая вежа.*

*Літ.:* 735.

*І. М. Маркевіч, П. С. Шылін.*

**БРЭ́СЦКІ БЕСКУРГА́ННЫ МО́ГІЛЬНІК,** на тэр. Брэста. На вул. Маскоўскай (былая в. Трышын), на правым беразе р. Мухавец. Адкрыў у 1959, даследаваў 900 м² у 1960—63, 1965, 1977 Ю. У. Кухарэнка. Выяўлена 75 пахаванняў у прадаўгаватых і круглых ямах глыб. да 1 м, дыям. 0,3—0,7 м на адлегласці 2—3 м адно ад аднаго. Пахавальны абрад — трупаспаленне.

Рэшткі крэмацыі, якая праводзілася за межамі пахавання, ссыпалі на дно ямы, часам змяшчалі ў спец. урны — гліняныя ляпныя гаршкі, збаны, міскі, вазы. У 68 пахаваннях знойдзены гліняны посуд і прасліцы, жал. нажы і замкі, бронзавыя фібулы, дэталі паяснога набору, шкляныя пацеркі, металічныя бранзалеты, падвескі, касцяныя грабяні.

Могільнік датуецца апошняй чвэрцю 1 ст.— 2-й пал. 3 ст. н. э., пакінуты плямёнамі *вельбарскай культуры,* якая склалася ў Памор'і і нізоўях Віслы ў 1 ст. У сярэдзіне 2 ст. носьбіты гэтай культуры рухаліся на ПдУ і дасягнулі Валыні, Пабужжа, Падоліі. Некаторыя даследчыкі звязваюць могільнік з адным з этапаў фарміравання славян.

*Літ.:* 636. *Т. М. Каробушкіна.*

**БРЭ́СЦКІ ЗА́МАК,** цэнтр абароны *Брэста* ў 14—18 ст. Размяшчаўся каля сутокаў р. Мухавец з Зах. Бугам на мысавым гарадзішчы, якое мела форму раўнабедранага трохвугольніка памерам 234×187×234 м. Пляцоўка замкавага дзядзінца пл. больш за 2 га была ўмацавана высокім земляным валам, дзе знаходзілася 5 вежаў і драўляныя гародні — «каморы». У лініі абароны, звернутай у бок места (горада), была вежа з брамай і гадзіннікам, а «от Муховца на всход солнца» — вуглавая вежа, якая разам з 2 іншымі вежамі абараняла замак з боку Замухавечча. Паўд. і паўд.-зах. ўчасткі лініі абароны замка ахоўвалі 2 вежы, адна з іх была брамай. З гэтага ж боку замак быў умацаваны дугападобным ровам, які жывіўся водамі Мухаўца і Зах. Буга. 4 вежы замка былі драўляныя, іх падрабязная апісанне не захавалася, але можна меркаваць, што ўсе яны мелі 2—3 ярусы абароны. У дакументах сярэдзіны 16 ст. адзначаецца, што на адной з вежаў было кругавое «бланкованье», у старой браме «с ганком наверху» вісеў ратны «звон великий». Летапісная вежа 13 ст.— мураваны «столп» — упамінаецца як вуглавая вежа «ад Муховца». Асн. лінію абароны Б. з. складалі 2-ярусныя гародні — «каморы пасполитые». Ніжнія іх паверхі — уласна каморы — у час аблог замка займалі жыхары горада і воласці з дзецьмі і скарбам. У час вайны тут яны мелі сваё «схованье». Усе 129 камор — гародняў запіраліся на «защепки» і «ланцуги на скоблях». На другі ярус, дзе знаходзілася крытая стрэшкай баявая галерэя («бланкованье»), вяла спец. лесвіца — «сходы». Былі прадугледжаны «потребные коморки» (туалеты). У лінію абарончых сцен уключаліся і жылыя памяшканні — «светлицы», пастаўленыя глухімі фасадамі ў бок поля. Догляд за абарончымі збудаваннямі і зброяй вялі спец. слугі і замкавыя рамеснікі: цясляр, муляр, сталяр, каваль, платнер, пушкар, слесар. У мірны час замкавая воласць штодня вылучала па 12 вартаўнікоў і «клікуноў», якія пільнавалі замак ад пажару. Агнястрэльная зброя ў Б. з. была з 15 ст. У дакументах за 1516 упамінаецца «пушкарь Берестейский Марко». У цэйхгаўзе Б. з. ў 1566 знаходзілася металічных даспехаў на 100 чал., 12 гармат, 1 марціра, 96 гакаўніц, 7 жал. «кіёў» (старасвецкая ручная агнястрэльная зброя), коп'і, пратазаны






Фібулы, касцяны грабеньчык, бронзавая спражка, глінянае прасліца, ляпны гліняны посуд з Брэсцкага бескурганнага могільніка.

арбалетныя стрэлы — балты, 360 гарматных ядраў, формы для іх адліўкі, інш. зброя і рыштунак. Інвентар 1566 зафіксаваў наяўнасць у замку рэдкіх тэхнічных прыстасаванняў — спец. помпаў для скрытай падачы вады ў замак, якая ішла па пракладзеных пад зямлёй драўляных трубах — «рурах». Падобныя тэхнічныя пабудовы ў гэтыя часы яшчэ не існавалі ў замках Польшчы, Літвы і Украіны. Вадзяныя «помпы медяные або спижные за штемпелями железными» прыводзіліся ў дзеянне вял. колам вадзянога млына, пастаўленага пад замкам на рацэ. З яго дапамогай магла працаваць і механічная «ступа на толчение пороху», а пры неабходнасці і сукнавальня — «фолюш». Вадапомпавае прыстасаванне абслугоўвалася спец. майстрам — «рурмистром». Гэтая пабудова завяршалася «вежицей» і, верагодна, была разлічана на выкарыстанне для патрэб абароны. У мірны час гарнізон замка быў нязначны, а ў выпадку вайны тут размяшчаўся спец. кантынгент войск — «служэбных». Уся зброя і ваенная амуніцыя набывалася за кошт прыбыткаў ад Брэсцкай і Кобрынскай эканомій; сялян традыцыйна бралі ў пяхоту замкавага гарнізона. Планава-кампазіцыйная структура ўмацавання Б. з. заставалася нязменнай да 18 ст.

За час свайго існавання Б. з. перажыў шмат аблог і разбурэнняў. У 1334 горад і замак былі захоплены рыцарамі Тэўтонскага ордэна і толькі праз 3 гады ён быў вызвалены кн. Кейстутам Гедымінавічам. У 1348 яго захапілі палякі, ад якіх Кейстут вызваліў горад каля 1366. У 1379 замак вытрымаў аблогу рыцараў на чале з комтурам з Бальгі Тэадорам Эльнерам. Зімой 1390 у час барацьбы паміж каралём Ягайлам і кн. Вітаўтам замак 10 дзён асаджала каралеўскае войска і захапіла яго. У 1500 Б. з. вытрымаў аблогу 15-тысячнага войска крымскіх татар, якія спалілі «места» і адступілі толькі тады, калі атрымалі «окуп». У выніку вял. пажару ў Брэсце ў 1525 у замку «всё на корень выгорело». Адноўленыя горад і замак перажылі ваенныя падзеі 1648, калі казакі Б. Хмяльніцкага разбурылі Брэст, «учинив его с полем равно», рэшткі былі знішчаны каралеўскімі наёмнымі салдатамі, якія занялі Брэст у снежні 1648. Ва ўмовах вайны паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай замак з цяжкасцямі быў адноўлены і ў лістападзе 1655 яго не адважыліся штурмаваць войскі рус. ваявод С. А. Урусава і Ю. Барацінскага. Летам 1657 аб'яднанае войска шведскага караля Аўгуста і сяміградскага князя Ракашы аблажылі замак і захапілі яго з-за здрады гарнізона, які складаўся з ням. пяхоты. Да 20.8.1658 горад і замак былі вызвалены спец. атрадам з жыхароў Брэсцкага ваяводства пад камандаваннем падчашага Вял. кн. Літоўскага М. Радзівіла. Аднаўленне замка ва ўмовах вайны зацягнулася. 8.1.1660 войскі рус. ваяводы І. А. Хаванскага па лёдзе падышлі да яго ўмацаванняў і авалодалі штурмам. Замак быў дадаткова ўмацаваны новымі драўлянымі тарасамі, сечанымі ў 2 бервяны і выш. у 2—2,5 сажні, зроблены запас збожжа, сабрана па навакольных вёсках, дастаткова для пражывання гарнізона на працягу 2 гадоў. У чэрвені 1660 войскі Хаванскага пакінулі Брэст. У 1661 замак, відаць, быў зноў часова захоплены рус. войскамі. Пасля некалькіх спроб дрэнна ўзброенай брэсцкай шляхце ўдалося яго нарэшце вярнуць. Для аднаўлення замка горад на 4 гады быў вызвалены ад усіх падаткаў. У разгар Паўночнай вайны ў 1705 умацаванні Б. з. не вытрымалі аблогі войск шведскага генерала Меерфельда. Пасля вайны драўляныя ўмацаванні замка былі заменены 5-бастыёнымі пабудовамі, якія пазней былі ўключаны ў склад новаўтворанай Брэсцкай крэпасці.

*Літ.:* 118, 118а, 316, 1200.

*М. А. Ткачоў.*

**БРЭСЦКІ МАНЕ́ТНЫ ДВОР,** адзін з цэнтраў манетнай вытворчасці ў Рэчы Паспалітай. Створаны ў час грашовай рэформы 1659—66 для выпуску меднай манеты — *соліда*. Заснаваны паводле пастановы Варшаўскага сейма ад 22.3.1659, але з-за адсутнасці сродкаў працаваў з 4.12.1665 да 16.12.1666 на падставе віленскага пагаднення ад 6.7.1665 паміж прадстаўніком земскага скарбу ВКЛ і А. М. Банданэлі, які кіраваў Б. м. д. у якасці прадстаўніка арандатара манетнага двара



**Брэсцкі замак.** План.

**Mennica W. X. Litew.**

15. NAleży to do porządku y pożytku powſzechnego, aby Mennica erygowana była, w W.X.Lit: oſobliwie w teraźnieyſzych Rzeczypoſp: potrzebach, obmyślaiąc ſpoſoby do wypłacenia woyſkom Naſzym winnego długu. Zaczym za zgodą powſzechną uchwalamy, żeby w Brześciu Litewſkim założona, y iako nayprędzey wyſtawiona była. Co zlecamy Wielmożnemu Adminiſtratorowi ná ten czas Skarbu W.X.Lit. żeby to *ad effectum* przywiodł, koſztem z podatkow Rzeczypoſp: A żeby to tym porządniey y ſkuteczniey ſtać ſię mogło, zlecamy Deputatom do Trybunału Skarbowego na tym Seymie naznaczonym, żeby tamże w Grodnie pod czas tego Trybunału namowili, y doſtatecznie poſtanowili, iakoby Mennica W.X.L. w ſwoie ryzę wprawiona była, ſtoſuiąc ſię *ad uniformitatem* Mennice Koronney. Y naypierwey pozwalamy wybić Million ieden ſzelągami.

Пастанова Варшаўскага сейма аб адкрыцці **Брэсцкага манетнага двара.**

Ціта Лівія Бараціні. Усяго выбіта 240 680 150 медных солідаў на суму 2 674 268 злотых 10 грошаў. На *аверсе* — выява Яна II Казіміра [1648—68], пад якой ініцыялы TLB (арандатара манетнага двара). На *рэверсе* — выява герба ВКЛ «Пагоня» (коннік у імклівай пагоні з узнятым над галавой мячом), пад якой манаграма І. К. Кіршэнштэйна (падскарбі вял. літоўскі ў 1662—76). Соліды Б. м. д. падобныя да медных манет, што выраблялiся на *Віленскім манетным двары.* Ёсць меркаванне, што большая частка тыражу мае адметныя рысы: шчыт з вострым вуглом, малая манаграма, палеаграфічныя асаблівасці. З 19 ст. папулярная назва солідаў Яна II Казіміра — *бараціңкі.*

*Літ.:* 1680.

**БРЭСЦКІЯ ГАРАДСКІ́Я ЎМАЦАВА́ННІ,** комплекс абарончых збудаванняў г. Брэста ў 14—18 ст. Размяшчаліся вакол горада па перыметры тэрыторыі, абмежаванай 2 рукавамі р. Мухавец. Агульная даўж. 2,5 км. Іх аснову складалі земляны вал з «парканом» і абарончы роў, запоўнены вадой (быў толькі з усх. боку, на астатніх участках вал абмываўся рукавамі ракі). Паводле пісьмовых звестак 16—17 ст. і планаў 17—19 ст., структура абароны Брэста вызначалася стабільнасцю. Зыходзячы з іх, можна меркаваць, што ў лініі гар. умацаванняў было як мінімум 4 брамы. Ва ўсх. частцы горада знаходзілася «брама от улицы Заугринки», якая выводзіла на Віленскі гасцінец, на дарогу ў Кобрын і далей у пaўд. і ўсх. раёны Беларусі. У розных дакументах яна называецца то «брама Виленская», то «брама Завгрынецкая». Другая брама — Пясочная — запірала «улицу Песок» і адчыняла шлях да «гостинца Краковского» ў Забужжа. Трэцяя брама — Рынкавая — адчыняла дарогу з гар. рынку ў *Брэсцкі замак.* Чацвёртая — Замухавецкая брама — выводзіла ў Замухавечча (за р. Мухавец) і далей на Ковель, у Валынь. Не выключана, што ў лініі ўмацаванняў стаяла і пятая брама. Відаць, гэта была невял. традыцыйная «фортка» — выхад на гар. сенажаці, размешчаныя на Пн і ПнЗ ад «места», дзе пазней пабудаваны касцёл брыгітак. Перад кожнай з брам былі масты. Мост перад Віленскай брамай даўж. 9—10 м, астатнія былі ў некалькі дзесяткаў метраў, бо перакрывалі Зах. Буг і Мухавец. Абарончы вал праходзіў па краі астраўной тэр. горада. У адным з дакументаў 1580 сказана, што «вал сам в собе цалый и до обороны местское пожиточный и городнями вколо ку обороне местской паркан на нем обудован». Параметры яго дакладна невядомы, хаця вал у раёне «брамы Завгрынецкой... так был широкий за городнями, яко через 2 сажени вшыр на ров ку воде для хоженья и обороны вшелякое, а з другой стороны от места межи домы местскими, а межи ж городнями вколо тот же вал так был широкий, яко 2 возы великих скарбных оменутисе могли».

Абарона Брэста ажыццяўлялася самімі гараджанамі. Рамеснікі, аб'яднаныя ў цэхавыя ваенныя фарміраванні (мечнікі, слесары, кавалі, рэзчыкі, сталяры, шынкары, краўцы, пекары і інш.), паводле статутаў сваіх цэхаў абавязаны былі мець «супольную армату, ... бубен и хоругву к оздобе для обороны места». Кожны цэх са сваёй зброяй удзельнічаў у ваенных аглядах — «пописах» — і ва ўсіх «потребах месских». Яны прымалі абавязковы ўдзел у рамонце ўмацаванняў, асобныя ўчасткі якіх былі замацаваны за кожным цэхам.

Сейм адзначаў стратэгічную важнасць Б. г. ў. як «брамы Вялікага княства Літоўскага ў Карону», на якой трымалася «сіла ўсяе Рэчы Паспалітай». Нездарма адзін з гербаў Брэста меў выяву шчыта з напятым лукам і стралой, а на гербе 16 ст. была выява вежы-брамы ў сутоках 2 рэк. З канца 13 ст. Брэст трапіў у зону ваенных сутыкненняў паміж вялікімі князямі ВКЛ і польскімі каралямі. У 1334—37 горад быў захоплены рыцарамі Тэўтонскага ордэна, а ў 1348—66 — польскімі феадаламі. Берасцейскае апалчэнне разам з апалчэннямі Віцебска і Полацка ўдзельнічала ў бітве з крыжакамі на р. Стрэва ў 1348. У 1379 рыцарскае войска раптоўна напала на горад, абрабавала і спаліла замак. У 1500 Брэст спаліла 15-тысячнае татарскае войска. Пасля страшэннага пажару 1525 гараджане прасілі караля перадаць у іх рукі права «у месте Берестейском мыто брати с купцов», абавязваючыся за гэтыя прыбыткі «ку обороне паркану гаковницы и порохи и иные потребы бронные справовати и к тому мосты мостити на Муховцы, на Угринце, на Струзе, у бронах и по улицам своим, где перед тым мащивали». Кароль даў такі дазвол на 10 гадоў, пры гэтым ён нагадаў, каб неадкладна, у першую чаргу пачалі будаваць «паркан как наши мещане, так и князские, и паньские, и духовные тыи вси мають делницы свои заробити потому, как и перед тым всим местом робили». У дадатак, для хутчэйшага аднаўлення ўмацаванняў, горад вызвалілі на 10 гадоў ад усіх падаткаў, што станоўча паўплывала на аднаўленне ўмацаванняў. Паводле апісання Берасцейскага староства за 1566, тут быў нанава адбудаваны замак, «место в паркане», «место за парканом» і новы раён Замухавечча. Рамонт умацаванняў вёўся паэтапна, прычым дробныя рамесніцкія цэхі аб'ядноўваліся для выканання «валавай работы». У 1648 казакі Б. Хмяльніцкага абрабавалі горад і цалкам яго разбурылі. У час руска-польскай вайны 1654—67 Варшаўскі сейм прыняў у 1654 спец. дэкларацыю пра неадкладнае аднаўленне Б. г. ў.: горад вызвалілі ад падаткаў, з Брэсцкай каралеўскай эканоміі ўсе прыбыткі накіроўваліся на мэты ваенна-фартыфікацыйных работ і закупкі амуніцыі, быў прысланы спец. інжынер-фартыфікатар. Для вядзення «валавай работы» з Брэсцкай эканоміі набіраліся людзі з разліку 1 тыдзень работы чалавека з 1 валокі. Б. г. ў. былі нанава спланаваны ў выглядзе магутнага пояса бастыённых умацаванняў, якія абкружалі горад і шырока спалучалі штучныя і прыродныя перашкоды. Вайна, у якую ўключылася і Швецыя, тармазіла аднаўленне ўмацаванняў. Да 1657 новыя Б. г. ў. былі ў значнай ступені пабудаваны і даволі ўдала вытрымлівалі аблогу аб'яднаных войск шведскага караля Аўгуста і сяміградскага кн. Ракашы, аднак наёмная ням. пяхота здала горад праціўніку. У 1658 Брэст вызвалены войскамі Рэчы Паспалітай і работы па ўзвядзенню бастыённай фартэцыі аднавіліся. Сейм Рэчы Паспалітай прыняў пастанову пра тэрміновае выдзяленне Брэсту 10 тыс. злотых, пастаўку патрэбнай колькасці пораху, ядраў і інш. амуніцыі. Гетман ВКЛ атрымаў наказ мець тут столькі пяхоты, колькі будуць патрабаваць абставіны. У 1659 гэтая пастанова сейма была прадубліравана, асабліва падкрэслівалася, што «моц усёй Рэчы Паспалітай залежыць ад моцы фартэцыі Брэсцкай, якая з'яўляецца варотамі ў Карону і ў Вялікае княства Літоўскае». 8.1.1660 войскі маскоўскага ваяводы І. А. Хаванскага захапілі і разбурылі Брэст, але ў сакавіку вымушаны былі пакінуць горад, хоць ён яшчэ двойчы пераходзіў з рук у рукі. Пры гэтым руйнаваліся яго ўмацаванні. Паслы ад Брэсцкага ваяводства неаднаразова нагадвалі сейму Рэчы Паспалітай пра неабходнасць аднавіць фартэцыю. Пасля Паўночнай вайны 1700—21 Б. г. ў. былі адноўлены і праіснавалі да канца 18 ст.

*М. А. Ткачоў.*

**БРЭ́СЦКІЯ СКА́РБЫ.** 1) Знойдзены ў Брэсце ў 1834. Складаўся з сярэбранай чары, 2 кавалкаў сярэбранага лома, 470 медных манет і 87 сярэбраных манет. Рэч Паспалітая: Ян II Казімір Ваза — медныя соліды 1659—66 (470 экз.), 6-грашовікі 1660—68 (54 экз.); Ян III Сабескі — 6-грашовікі 1679—83 (9 экз.). Прусія: Фрыдрых Вільгельм — 6-грашовікі і орты 1679—86 (17 экз.), Фрыдрых III — манеты 1699 (6 экз.). Саксонія: Іаан Георг IV — манета 1694. Ухаваны ў канцы 17 ст. 39 сярэбраных манет захоўваюцца ў Эрмітажы. 2) Знойдзены ў Брэсце ў 1837. Складаўся з 1035 сярэбраных грошай агульнай масай 3027,692 г. Чэхія, манет. двор Кутна Гора: Карл I [1346—78] —

грош пражскі (114 экз.); Вацлаў IV [1378—1419] — грош пражскі (406 экз.); Казімір III [1333—70] — грош кракаўскі; 514 экз. нявыяўленага правіцеля Польшчы — Кракаўскі манетны двор. Ухаваны ў 1420-я г. Пасля вызначэння ў Эрмітажы перададзены ў Прыдворную Кантору (Пецярбург). Далейшы лёс скарбу невядомы. 3) Знойдзены паміж Варшаўска-Цiраспальскай чыгункай і яе Мухавецкай веткай у 1884. Складаўся з 153 сярэбраных манет. Рэч Паспалітая: Ян II Казімір Ваза — 6-грашовікі польскія 1660—66, 6-грашовік літоўскі 1666; Ян III Сабескі — 6-грашовікі польскія 1678, 1679, 1681, 1682, 1684. Іспанскія Нідэрланды: Філіп IV — паўпатагон Брабанта 1657, Прусія: Фрыдрых Вільгельм I—6 грашовікі 1679, 1682, 1683, 1685, 1686. Ухаваны ў 2-й пал. 1680-х г. Здадзены ў пераплаўку на Пецярбургскі манетны двор. 4) Знойдзены ў Брэсце ў 1960 каля 10 сярэбраных рублёвікаў Паўла I [1796—1801]. Ухаваны ў канцы 18 — пач. 19 ст. Лёс скарбу невядомы. 5) У час раскопак *Брэсцкага бескурганнага могільніка* на тэр. былой в. Трышын (у 1968 зліласся з г. Брэст). У 1961 знойдзены 2 медныя манеты Рымскай імперыі (выключна рэдкія знаходкі антычных манет на Беларусі). Захоўваюцца ў *Брэсцкім абласным краязнаўчым музеі*.

**БУБЕ́НЬКА** Таццяна Станіславаўна (н. 8.6.1957, г. Беразіно), беларускі археолаг. Канд. гіст. навук (1991). Скончыла БДУ (1980). З 1977 у Ін-це гісторыі АН Беларусі. Вывучае помнікі гарадоў і сельскіх паселішчаў Беларусі 9—18 ст. Правяла раскопкі Віцебскага Ніжняга замка (1981—85, 1987—89), Клецкага пасада (1986). Абследавала археал. помнікі ў Баранавіцкім, Віцебскім, Мастоўскім, Пухавіцкім, Чашніцкім р-нах.

*Тв.:* Средневековый Витебск (разам з М. А. Ткачовым, Л. У. Калядзінскім) // Труды V Междунар. конгресса славянской археологии. М., 1987. Т. 3, вып. 1б; Стеклянная посуда из Витебска // Древности Литвы и Белоруссии. Вильнюс, 1988; Ремесло Витебского посада // Города Верхней Руси: истоки и становление: Материалы науч. конф. Торопец, 1990; Подых незвычайнай эпохі: Клецкая кафля XVI ст. (разам з В. Пазняковым) // Мастацтва Беларусі. 1991. № 3.

**БУДАЎНІ́ЧЫ Я́РУС** у археалогіі, комплекс стараж. рэштак сінхронных збудаванняў пэўнага перыяду (пабудовы, маставыя, агароджы і інш.) і знаходак іх у культурным пласце. З'яўляецца каштоўнай крыніцай вывучэння старадаўняй планіроўкі і забудовы стараж. гарадоў. Тэрмін Б. я. упершыню ўжыты Л. У. Арцыхоўскім у 1932 у час раскопак у Ноўгарадзе. У стараж. гарадах з магутным культурным пластом, які добра захоўвае рэшткі драўлянай забудовы, пачаргова вылучаюць некалькі ярусаў, якія аддзяляюцца адзін ад аднаго праслойкамі культурнага пласта, слоем пажарышча, нівеліраванымі пракладкамі з рэштак бярвён, дошак і інш. Працягласць практычнага існавання яруса — 20—50 гадоў. У выніку раскопак у Мінску выяўлена 20 Б. я., у Віцебску — 16, Полацку — 14, Брэсце — 12, Пінску, Слуцку, Давыд-Гарадку, Слоніме, Гродне, Мсціславе — 4—6. Б. я. фіксуецца ў справаздачы з раскопак з указаннем глыбіні залягання, апісаннем спадарожных знаходак, фотаздымкамі. Для датавання яруса выкарыстоўваюць дэндрахраналагічны, стратыграфічны і інш. метады. Часам робяцца пэўныя захады для кансервацыі Б. я. (гл. *Археалагічны музей «Бярэсце»*).

*Літ.:* 206, 385, 423, 703, 900, 1196, 1346. *Л. У. Калядзінскі.*



Т. С. **Бубенька.**



У. Дз. **Будзько.**

**БУДЗЬКО́** Уладзімір Дзмітрыевіч (н. 30.12.1927, в. Ліскі Рагачоўскага р-на), беларускі археолаг. Канд. гіст. навук (1962). Скончыў БДУ (1957). З 1961 навук. супрацоўнік, з 1965 заг. сектара археалогіі Ін-та гісторыі АН БССР. У 1970—72 дацэнт Гомельскага ун-та, з 1973 навук., ст. навук. супрацоўнік Ін-та мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі. Даследчык сярэдняга і верхняга палеаліту на тэр. Беларусі і сумежнай тэр. Расіі. Праводзіў раскопкі верхнепалеалітычных стаянак у *Бердыжы, Елісеевічах, Юдзінаве, Юравічах,* стаянкі фінальнага палеаліту ў *Падлужжы, Грэнску,* Рудні Спонiцкай і інш., устанавіў іх геалагічны ўзрост (сумесна з Л. М. Вазнячуком) і адносную старажытнасць, вызначыў месцы гэтых помнікаў сярод аналагічных стаянак Усх. і Цэнтр. Еўропы, вылучыў самастойную *грэнскую культуру*. Адзін з аўтараў «Нарысаў па археалогіі Беларусі» (ч. 1, 1970), «Гісторыі Беларускай ССР» (т. 1, 1972), «Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі» (т. 1—7, 1984—88).

*Тв.:* О жилищах Бердыжской палеолитической стоянки // Краткие сообщения Ин-та археологии АН СССР. М., 1964. Вып. 101; Памятники свидерско-гренской культуры на территории Белоруссии // Материалы и исследования по археологии СССР. М.; Л., 1966. № 126; Юревичская верхнепалеолитическая стоянка // Белорусские древности. Мн., 1967; Археология Белоруссии за советский период (разам з А. Р. Мітрафанавым) // Сов. археология. 1967. № 4.

**БУДРА́НЫ,** курганны могільнік балтаў каля в. Будраны Астравецкага р-на. За 0,7 км на ПдЗ ад вёскі. Мясцовая назва Капцы. 12 насыпаў выш. 0,6—1 м, дыям. 6—9 м. Даследаваў 10 курганоў ( 9 круглых дыям. 6,5—15 м, авальны памерам 11,5×15,5 м) у 1895 Ф. В. Пакроўскі. Пахавальны абрад — трупаспаленне на гарызонце (2) і ў насыпе (2). Пахавальны інвентар — сякеры, наканечнікі коп'яў, серп, нож, бронзавыя бляшкі, мініяцюрны ляпны гаршчок. У адным кургане выяўлены косці каня з жал. трохчастковымі цуглямі і спражкамі; 5 насыпаў без пахаванняў.

Датуецца канцом 1-га тысячагоддзя н. э.

*Літ.:* 914.

**БУЖА́НЕ,** усходнеслав. племя (магчыма, саюз плямён), якое засяляла ў 6—9 ст. басейн Зах. Буга. Іх суседзямі на Пд былі *валыняне,* на З — *мазаўшане.* Аселыя займаліся земляробствам, жывёлагадоўляй, бортніцтвам, рамёствам. Упамінаюцца ў «Аповесці мінулых гадоў». На думку славацкага гісторыка П. І. Шафарыка, у 5 ст. да н. э. называліся будзінамі, у першым ст. н. э. сербамі (беласербамі). Паводле звестак географа Баварскага (канец 9 ст.), мелі 231 «горад» (замак). З 10 ст. Б. ў складзе Кіеўскай Русі.

З 12 ст. жыхары зямель Пабужжа называліся па гал. гарадах княстваў — дарагічынцы, берасцейцы і г. д. З 13 ст. пашыраецца новая назва гэтых зямель — Падляшша. У літаратуры 19 ст. Б. зрэдку атаясамліваюць з валынянамі, палешукамі.

**БУЗДЫГА́Н** (ад турэцкага «боздоган» — палка, булава), старажытная металічная зброя бліжняга бою ў выглядзе булавы з дзяржаннем (даўж. да 0,6 м) і галоўкай з 6—20 металічнымі пер'ямі (шырэйшыя на канцах). Часта ў дзяржанні быў схаваны стылет. На Беларусі сустракаліся прывазныя Б. (Турцыя, Зах. Еўропа) і мясц. вытворчасці. З 17 ст. Б. стаў знакам афіцэрскай годнасці і ўпрыгожваўся каштоўнымі металамі і камянямі. Знік Б. у канцы 18 ст. У 1675 быхаўскія залачоныя Б. вывозілі на продаж у Маскву. Паводле актаў і запісаў Нясвіжскай збраёўні 17 ст., тут знаходзіўся Б. «дамаскі ў бронзу апраўлены». У Віцебскім абл. краязнаўчым музеі захоўваецца заходнееўрапейскі стальны Б. 16 ст. тыпу «моргенштэрн», у Брэсцкім абл. краязнаўчым музеі — тыпу «шастапёр».

*Літ.:* 1, 1423, 1510. *М. А. Ткачоў.*

**БУЙНІЧЫ**, археал. помнікі каля в. Буйнічы Магілёўскага р-на.

Г а р а д з і ш ч а ранняга *жалезнага веку.* За 0,8 км на Пд ад вёскі, на правым беразе Дняпра (за 400 м ад рэчышча), ва ўрочышчы Благадаць. Выявіў у пач. 20 ст. Е. Р. Раманаў, абследавалі ў 1928 А. Дз. Каваленя, у 1977 Л. У. Дучыц, у 1988 А. А. Седзін. Пляцоўка авальная, памерам 46×26 м, выцягнута з Пн на Пд, выш. над поймай 12,5—13,5 м. З паўн. боку ўмацавана валам выш. 4,5 м, шыр. да 25 м, ровам глыб. 1 м. Пляцоўка здзірванелая, пашкоджана траншэямі, ямай ад бліндажа часоў Вял. Айч. вайны, вал — ярамі і варонкамі ад бомб. Знойдзена ляпная кераміка з дамешкамі жарствы ў гліне.

С т а я н к а эпохі мезаліту. На паўд. ускраіне вёскі, на першай надпоймавай тэрасе правага берага Дняпра. Памер 18×30 м. Выявіў і абследаваў у 1975 В. Ф. Капыцін. Культурны пласт 0,1 м. У агаленнях тэрасы знойдзены крамянёвыя канцавыя скрабкі, бакавыя разцы, нуклеусы і адшчэпы. Датуецца 8—5 тыс. да н. э.

*Літ.:* 470, 989.

**БУ́ЛА**, металічная віслая *пячатка*, якая прывешвалася на шнурку да дакументаў. Назва паходзіць ад свінцовага шарыка (праз яго працягваўся шнурок), на якім адціскаўся адбітак спец. шчыпцамі («булатарыі»). З'явіліся Б. ў Рыме ў канцы 4 ст., адціскаліся са свінцу, золата, серабра. З канца 10 ст. вядома ў Страраж. Русі. Знойдзены ў Брэсце, Ваўкавыску, Віцебску, Гродне, Мінску, Полацку. Б. полацкага кн. Ізяслава і ігуменні Ефрасінні Полацкай выяўлены ў Ноўгарадзе.

**БУЛАВА**, старадаўняя халодная зброя бліжняга бою, якая мела форму паліцы, даўж. 0,5—0,8 м з галоўкай рознай канфігурацыі. Найб. характэрна для народаў стараж. Усходу, з сярэднявечча вядома на тэр. Еўропы, у т. л. ўсх. славян. З 16 ст. стала сімвалам вайсковага



Агульны выгляд гарадзішча **Буйнічы.**



**Булы з выявай тураўскага князя Ізяслава Яраславіча (11 ст.) з Ваўкавыска (1) і Бярэсця (2); з выявай св. Георгія і знакам Рурыкавічаў (трызубец) з в. Залатуха Калінкавіцкага р-на 2-й пал. 12 ст. (3).**

старшынства. На Беларусі Б. з каменнай галоўкай вядома з канца неаліту (*Гронаў*). У бронзавым веку яе выраблялі з каменнай або касцяной галоўкай эліпса-, шарападобнай і чатырохвугольнай форм (в. Ляды Барысаўскага, в. Віць Хойніцкага, г. п. Сапоцкін Гродзенскага, в. Дружылавічы Іванаўскага р-наў і інш.). З 10—11 ст. выраблялі металічныя Б. (бронзавыя, свінцовыя, жалезныя). Мела розную форму: шарападобную васьмідольную (Лукомль, 12—13 ст.), грыбападобную (Давыд-Гарадок, 12 ст.), грушападобную (Нясвіж), бочачкападобную з пірамідальнымі шыпамі або



Эліпсападобная каменная **булава** 2-га тысячагоддзя да н. э. з в. Дружылавічы Іванаўскага р-на.



**Булава** 10—13 ст. з Гродна.

выступамі (Слуцк, Гродна, Заслаўе, 10—13 ст.), куба (Полацк, 12—13 ст.), куба з усечанымі вугламі (*Маскавічы*, 12—13 ст.). Жалезныя галоўкі (Полацк, Маскавічы) мелі вагу 110 і 175 г, бронзавыя са свінцовай заліўкай —180, 195 г. З 16 ст. як сімвал улады Б. аздаблялі каштоўнымі камянямі, золатам, серабром (у скарбніцы нясвіжскіх Радзівілаў у 17 ст. захоўвалася «Б. гетманская, апраўленая золатам, бірузой і рубінамі»). У бел. ваеннай тэрміналогіі «вялікая Б.» азначала ўладу вял. гетмана, а «Б. польная», ці «Б. меншая»,—гетмана польнага. У канцы 18 ст. Б. на Беларусі знікла.

*Літ.:* 277, 416, 479, 702, 847, 1346, 1347. *М. А. Ткачоў.*

**БУЛКІН** Валянцін Аляксандравіч (н. 30.11.1937, Ленінград), археолаг і мастацтвазнавец. Канд. мастацтвазнаўства (1975). Скончыў Ленінградскі дзярж. ун-т (1966). Дацэнт кафедры гісторыі мастацтва Ленінградскага ун-та (1978). Вывучае гісторыю стараж.-рус. мастацтва і археалогію архітэктуры. Кіраваў раскопкамі Полацкага Сафійскага сабора, у выніку якіх зрабіў план яго рэканструкцыі, датаваў першапачатковую пабудову сабора (11 ст.), адкрыў рэшткі прыбудоў да яго 12—13 ст., выказаў меркаванне пра існаванне прамавугольнай вежы каля паўн.-зах. вугла сабора, праз якую траплялі на хоры, у фундаменце выявіў камень з надпісам, даказаў наяўнасць княжацкага магільнага склепа і другой царквы побач.

*Тв.:* Советское источниковедение Киевской Руси: Историогр. очерки. Л., 1979 (у сааўт.); Проблемы изучения Полоцкого Софийского собора // Древнерусское государство и славяне. Мн., 1983; Надписи на камне из храма Софии в Полоцке (разам з Т. У. Раждзественскай) // Памятники культуры: Новые открытия: Ежегодник 1982. Л., 1984; Социальный заказ и церковное строительство на Руси // Отечественное и зарубежное искусство XVIII в.: Основные пробл. Л., 1986; Софийский собор в Полоцке: (К вопросу о зап. апсидах) // Древнерусское искусство. М., 1988. *Г. В. Штыхаў.*

**БУЛКІН** Васіль Аляксандравіч (н. 9.7.1945, Ленінград), археолаг і гісторык. Канд. гістарычных навук (1973). Скончыў Ленінградскі дзярж. ун-т (1970). Дацэнт кафедры археалогіі Ленінградскага ун-та (1982). Вывучае пытанні развіцця Падзвіння і Верхняга Падняпроўя ў этнакультурных працэсах Усх. Еўропы ў 1-м — пач. 2-га тысячагоддзя н. э. Прымаў удзел у раскопках у Полацку, Мазыры, Янкавічах (Расонскі р-н).

*Тв.:* Археологические памятники Древней Руси IX—XI веков. Л., 1978 (разам з І. В. Дубавым, Г. С. Лебедзевым); Советское источниковедение Киевской Руси: Историогр. очерки. Л., 1979 (у сааўт.); Некоторые данные об исторической географии центральной Белоруссии // Древнерусское государство и славяне. Мн., 1983; Городище в Кимбаровке (разам з Г. М. Залашкам) // Археологические открытия 1983 года. М., 1985; К этноисторической географии Белоруссии (разам з А. С. Гердам) // Археология и история Пскова и Псковской земли. Псков,1987; Река Полота и загадочный Турунт // К 1125-летию Полоцка: Конф. «История и археология Полоцка и Полоцкой земли»: Докл. на юбил. чтениях. Полоцк, 1987; О месте Полоцка на Западной Двине (разам з В. Н. Смірновым) // Там жа; Герцике и Кукенойс // Генезис и развитие феодализма в России. Л., 1988; Об особенностях географии смоленско-полоцких длинных курганов // Археология и история Пскова и Псковской земли. Псков, 1988. *А. А. Трусаў.*

**БУНА́К** Віктар Валяр'янавіч [10(22).9.1891, Масква — 11.4.1979], савецкі антраполаг. Д-р біялагічных навук (1935), прафесар (1925). Заслужаны дзеяч навукі РСФСР. У 1923—48 заг. кафедры антрапалогіі і дырэктар Ін-та антрапалогіі Маскоўскага дзярж. ун-та. З 1948 у Ін-це этнаграфіі імя М. М. Міклухі-Маклая АН СССР. Аўтар першага сав. падручніка па антрапалогіі. Укараніў у антрапалогію гісталагічныя, сералагічныя, біяхімічныя, папуляцыйна-генетычныя і дэмаграфічныя, блізняковыя і пасямейныя метады даследаванняў. Распрацаваў асн. прынцыпы антрапалагічнага даследавання. Пад яго кіраўніцтвам і пры яго ўдзеле праведзены антрапалагічныя даследаванні ў



Вал. А. **Булкін.**

раёнах на Пд і ПдЗ Беларусі (Бабруйск, Бяроза, Глуск, Івацэвічы, Любань, Ляхавічы, Пінск, Слуцк, Старобін, Целяханы, Чырвоная Слабада). Сабраў даныя па размеркаванню груп крыві на тэр. Усх. Еўропы, у т. л. і на Беларусі.

*Тв.:* Раса как историческое понятие // Наука о расах и расизм. М.; Л., 1938; Антропологические исследования в Южной Белоруссии // Антропологический сборник. М., 1956. № 1; Череп человека и стадии его формирования у ископаемых людей и современных рас. М., 1959.

*Літ.:* 823. *Л. І. Цягака.*

**БУРАЗЬ,** комплекс археал. помнікаў каля в. Бураз Жыткавіцкага р-на. За 1 км на Пд ад вёскі, на выцягнутай дзюне ўздоўж правага берага высахлага рэчышча р. Язда, ва ўрочышчы Казаргаць. Абследавалі ў 1927 г. А. Дз. Каваленя, С. С. Шутаў, Я. Р. Калодкін, В. П. Тарановіч, даследавалі ў 1961 Ю. У. Кухарэнка, Л. Д. Побаль, у 1968 У. Ф. Ісаенка.

Паселішчы каменнага і бронзавага вякоў. Знойдзены тронкавыя наканечнікі стрэл на ножападобных пласцінах і інш. вырабы эпохі мезаліту, крамянёвыя прылады працы і фрагменты керамічнага посуду

днепра-данецкай, сярэднедняпроўскай і тшцінецкай культур.

Селішчы жалезнага веку. Паблізу паселішчаў. Знойдзены посуд мілаградскай культуры з круглым і пляскатым вузкім дном, высокімі адагнутымі ці прамымі гарлавінамі, з ямкамі пад краем венчыка.

У канцы 1-га тысячагоддзя да н. э.— пач. 1-га тысячагоддзя н. э. тут існавала селішча зарубінецкай культуры.

Бескурганны могільнік зарубінецкай культуры. Побач з се-



Падвеска з **бурштыну** сярэдзіны 2-га тысячагоддзя да н. э. з курганнага могільніка Ходасавічы Рагачоўскага р-на.

лішчамі. У 1930-я г. выяўлена і даследавана 19 пахаванняў. Пахавальны абрад — трупаспаленне, рэшткі крэмацыі ссыпаліся ў невял. яму. Пахавальны інвентар — грубаляпны посуд (міска, гаршчок, кубак), фрагменты жал. і бронзавых вырабаў (падвесак, скроневых кольцаў).

Ва ўрочышчы выяўлены слав. старажытнасці 6—9 ст., рэчы раннефеад. перыяду.

*Літ.*: 454, 472, 637, 638, 899, 1148.

*М. М. Крывальцэвіч.*

**БУРНО́СЫ,** стаянка каля в. Бурносы Лідскага р-на. На паўн.-ўсх. ускраіне вёскі, каля в. Бурносы Лідскага р-на, уздоўж краю правабярэжнай тэрасы Нёмана. Выявіла ў 1951 С. Н. Тараканава, абследаваў у 1962, 1985 М. М. Чарняўскі. Захаваўся толькі невял. вольны ад пасадак край паселішча, культурны пласт да 0,5 м. Знойдзены матэрыялы мезалітычнага часу (лістападобныя наканечнікі стрэл, ланцэтападобныя вастрыі, бакавыя разцы, трапецыі, частка з іх мае рысы свідэрскай культуры, фінальнага этапу палеаліту). Зрэдку сустракаюцца рэчы бронзавага веку (сэрцападобныя наканечнікі стрэл).

*Літ.*: 1146.

**БУРШТЫ́Н** (ням. Bernstein палаючы камень), зацвярдзелая выкапнёвая смала некаторых парод хваёвых дрэў палеагенавага і неагенавага перыядаў (65—2 млн. г. таму назад). Б., які сустракаецца ва Усх. Еўропе, пераважна жоўты і жоўта-чырвоны з рознымі адценнямі. У Сіцыліі вядомы блакітны, чырвоны або зялёны, у Румыніі — чорны Б. Найбліжэйшыя ад Беларусі і найбольшыя ў свеце радовішчы Б. знаходзяцца на паўд. беразе Балтыйскага мора (у Калінінградскай вобл. і на балтыйскім беразе Польшчы). Адсюль па рэках Зах. Дзвіна, Нёман, Зах. Буг і ўніз па Дняпры Б. трапляў на тэр. Беларусі, Украіны, на Верхняе Паволжа і Усх. Міжземнамор'е (гл. *Бурштынавыя шляхі*). У пераадкладзеным россыпным выглядзе Б. сустракаецца ад вусця Рэйна да Пад-



Да арт. **Бурштын**. Бурштынавыя ўпрыгожанні з тарфянікавых стаянак позняга неаліту і ранняга бронзавага веку Віцебшчыны.

няпроўя і ад паўд. Швецыі да Карпат. На Беларусі Б. у невял. колькасці трапляецца ў глыбіні марэнных адкладаў Палесся. Матэрыял шырока выкарыстоўваецца для вырабу ўпрыгожанняў. На Беларусі вядомы з неаліту, нярэдка сустракаецца пры раскопках археал. помнікаў — стаянак, бескурганных і курганных могільнікаў, селішчаў, гарадзішчаў і стараж. гарадоў.

*М. М. Чарняўскі.*

**БУРШТЫ́НАВЫЯ ШЛЯХІ́,** шляхі пашырэння *бурштыну* і вырабаў з яго з паўд. ўзбярэжжа Прыбалтыкі. У познім неаліце (2-я пал. 3-га тысячагоддзя да н. э.) праходзілі праз тэр. паўн. Беларусі па Зах. Дзвіне — з усх. Латвіі на сучасную Віцебшчыну і ў вярхоўі Зах. Дзвіны. У пач. бронзавага веку гэты шлях стаў больш ажыўленым, узніклі яго адгалінаванні на Бел. Падняпроўе і праз водападзел на Валдайскім узвышшы ў басейн Верхняй Волгі. На З Беларусі трапляў па Нёмане і па Зах. Бугу (апошнім шляхам яго транспартавалі з нізоўяў Віслы на З Украіны). У сярэдзіне 2-га тысячагоддзя да н. э. функцыяніравалі шляхі, што звязвалі Паўд. Прыбалтыку з эгейскімі гарадамі і інш. раёнамі ўсх. Міжземнамор'я — праз Зах. Дзвіну і Дняпро ў Чорнае і Эгейскае моры, праз Віслу

і Зах. Буг у Паўд. Буг або Дняпро і далей у тыя ж моры. Да канца 2-га тысячагоддзя да н. э. прыбалтыйскі бурштын пранікае ў рознай колькасці на б. ч. еўрап. тэрыторыі. У канцы 1-га тысячагоддзя да н. э. з пашырэннем гегемоніі Рыма ў Міжземнамор'і найб. важным стаў шлях вывазу бурштыну па Вісле з адгалінаваннем на Зах. Буг. У сярэднявеччы са змяншэннем попыту на бурштын і захопам Прычарнамор'я мусульманскай Турцыяй, саперніцтвам з Рускай дзяржавай традыцыйныя Б. ш. праз Беларусь заняпалі.

*М. М. Чарняўскі.*

**БУЦЬКІ,** курганны могільнік каля в. Буцькі Пружанскага р-на. За 0,6 км на ПдЗ ад вёскі, на тэр. старых могілак. 4 насыпы дыям. 5,6—8,5 м, выш. 0,5—0,8 м, на адлегласці 5—12 м адзін ад аднаго. Выявіла і даследавала ў 1986 Т. М. Каробушкіна, раскапаны 1 курган. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў труне галавой на З. Пахаванне можна датаваць II ст. Раней тут існаваў грунтавы могільнік, аб чым сведчаць 4 пахаванні на глыб. 0,7 м у трунах галавой на ПдЗ.

Побач з курганамі — каменны язычніцкі ідал (каменная баба), на грудзях якога высечаны крыж у коле, датуецца 1 ст. н. э.

*Літ.:* 591.

**БЫХАЎ,** горад, цэнтр Быхаўскага р-на, прыстань на Дняпры. За 44 км на Пд ад Магілёва, чыг. станцыя на лініі Магілёў — Жлобін, аўтадарогамі звязаны з Магілёвам, Рагачовам, з аўтамагістралямі Магілёў — Гомель і Магілёў — Бабруйск.

Межы гіст. часткі горада акрэслены берагам Дняпра і абарончым валам пач. 17 ст., рэшткі якога захаваліся да нашага часу. Пл. ўмацаванай часткі Б. каля 60 га. Даследаваў І. І. Сінчук, у 1988 ускрыта 24 м² у час назіранняў за землянымі работамі, у 1989 раскапана 120 м². Культурны пласт 0,5—2,5 м. У паўн.-ўсх. частцы горада выяўлены пласт знаходак, пашкоджаных пажарам 1650-х г. На глыб. 0,7 м адкрыты рэшткі аднаяруснага насцілу з бярвён маставой 17 ст. шыр. 4,5 м, што вяла да Магілёўскай брамы ў паўн. частцы горада. Пад маставой выяўлены культурны пласт 15—17 ст. таўшч. 0,6 м.

Сярод масавых знаходак перавmust жаюць матэрыялы 16—18 ст.: керамічныя вырабы з суглінку і глін мясц. паходжання, кафля з суглінкаў і лёсападобных супескаў, розныя віды тарнага і сталовага шклянога посуду, аконныя дыскавыя і прамавугольныя шыбы, плоская непаліваная і зялёнапаліваная дахоўка 17 ст. з паўцыркульным наскам і «кубічным» мацавальным шыпам, цэгла-пальчатка з прамымі і косымі бараznамі і інш. У ліку адзінкавых знаходак — пісталетны ствол 2-й пал. 17 ст., жал. акоўка рыдлёўкі 17 ст., пакеты прамавугольных аконных шыбак 17—18 ст., зялёнапаліваны лялечны збанок і фрагмент непаліванай кафлі з дыдактычным сюжэтам 1-й пал. 17 ст., медны солід Рэчы Паспалітай 1664 і інш.

Б. (Стары Быхаў) упершыню ўпамінаецца ў грамаце кн. Дзмітрыя Сямёнавіча ад 31.5.1393 як княжацкае ўладанне, у канцы 14 — пач. 15 ст. ў «Спісе рускіх гарадоў далёкіх і блізкіх». У 1430 быў уладаннем вял. князя ВКЛ Свідрыгайлы, у 2-й пал. 15—1-й пал. 16 ст. належаў княжацкаму роду Гаштольдаў, у 1542—1625 — магнатам ВКЛ Хадкевічам, з 1628 — княжацкаму роду Сапегаў. У 17—1-й пал. 18 ст. Б.— горад- крэпасць (гл. *Быхаўскія*



**Быхаў.** План 1781. Паводле А. Квітніцкай.




**Быхаўскі замак.** План 1-га паверха.

*гарадскія ўмацаванні, Быхаўскі замак),* важны стратэгічны цэнтр. У 1590 Б. захапілі казакі данскога гетмана Мацюшы Федаровіча, у 1648 на горад хадзілі прыступам паўстанцы пад кіраўніцтвам Гаркушы. У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 Б. вытрымаў 18-месячную (1654—55) аблогу казакоў Запарожскага войска, з 1655 — рускіх войск. Паводле Віленскага перамір'я 1656, была асобна абумоўлена недатыкальнасць Б., але ў 1657 горад быў захоплены рус. войскамі і казакамі і стаў рэзідэнцыяй «беларускага палкоўніка» Івана Нячая, які ў 1658 перайшоў на бок Рэчы Паспалітай. У 1659 царскія войскі пасля аблогі прыступам узялі Б., дзе былі размешчаны маскоўскія ратныя людзі. У 1660 войска Рэчы Паспалітай асадзіла гарнізон і ў 1661 дамаглося яго капітуляцыі. У час Паўночнай вайны 1700—21 Б. пасля аблогі і гарматнага абстрэлу ў 1701 здаўся войскам антышведскай кааліцыі. Пасля пераходу гарнізона на бок праціўніка ў 1707 горад быў захоплены царскімі войскамі і да 1716 у ім размяшчаўся рус. гарнізон. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Расіі.

*Літ.:* 118 а, 233, 1189.

*Т. І. Ляўкова, І. І. Сінчук.*

**БЫХАЎСКІ ГІСТОРЫКА-КРАЯЗНАЎЧЫ МУЗЕЙ.** Заснаваны ў 1979 на базе музея пры рэдакцыі раённай газеты «Маяк Прыдняпроўя», адкрыты ў 1984. Мае каля 200 археал. экспанатаў (1991): біўні і зубы мамантa, крамянёвыя вырабы эпохі мезаліту з пасялення *Баркалабава,* свідраваныя каменныя сякеры бронзавага веку, выпадковыя знаходкі з тэр. Быхаўскага і суседніх з ім раёнаў, нажы, рыбалоўны кручок, шыла, фрагменты ляпнога керамічнага посуду жал. веку з раскопак гарадзішчаў *Тайманава* і *Адаменка.* Сярод нумізматычных матэрыялаў рус. і зах.-еўрап. манеты 16—20 ст.

**БЫХАЎСКІ ЗАМАК,** комплекс земляных і мураваных палацавазамкавых збудаванняў 16—18 ст. Уваходзіў у сістэму *Быхаўскіх гарадскіх умацаванняў.* Узведзены на высокім правым беразе Дняпра, на месцы больш ранняга паселішча 14—15 ст. Да 1590 Б. з. меў драўляна-земляныя ўмацаванні — кальцавы вал, драўляныя сцены ў выглядзе гародняў, вежы і ўязную браму. У тым жа годзе замак вытрымаў напад атрада «нізавых казакоў» данскога гетмана Мацюшы Федаровіча, якія, «наехавши гвалтовне..., шкоды немалые... починили». У варотах брамы і ў драўляных сценах засталіся «есьмо куль и стрел немало». Тады ж гаспадар горада гетман ВКЛ Ян Хадкевіч атрымаў ад караля грамату на ўзвядзенне новага замка. Будаўніцтва яго зацягнулася і закончылася ў 1619 пры Л. Сапегу, да якога ў 1628 перайшоў Быхаў, узведзена бастыённая фартыфікацыя. Новы Б. з. займаў участак берага ў выглядзе няправільнага прамавугольніка памерам 77×100 м, замак з Пд, З і Пн быў умацаваны глыбокімі і шырокімі

(да 22—27 м) равамі, па краях пляцоўкі — земляным валам з бастыёнамі. Па перыметры дзядзінца размяшчаліся жылыя і гасп. пабудовы, у т. л. комплекс мураванага палацава-замкавага ансамбля. «Прыступны» зах. бок абароны замка з уязной брамай быў дадаткова ўмацаваны 8-кантовымі 2-яруснымі цаглянымі вежамі, якія мелі па 7—8 байніц і фланкіравалі подступы да брамы. Брама была таксама мураваная, 2-ярусная з скляпеністым перакрыццем, з купалам — «галкай» і ветранікам (флюгерам) з гербам Сапегаў. Двухстворкавыя вароты былі дадаткова ўмацаваны герсай і спец. сістэмай жал. запораў. Да брамы вёў драўляны мост, пасярэдзіне якога стаялі дадатковыя «краты з дрэва сталярскай работы». На восі ўезда ў замак знаходзіўся палац, на ніжнім паверсе якога размяшчаліся розныя службы, на верхнім — пакоі і сталовая зала, пад палацам — скляпеністыя падвалы. Справа ад брамы была казарма, на замкавым двары — студня. У Б. з. пастаянна знаходзіўся значны воінскі гарнізон, які падначальваўся «губернатару», а таксама вял. колькасць агнястрэльнай зброі і амуніцыі. На патрэбу абароны працавала спец. «людвісарня» (ліцейны гарматны двор), дзе высокакваліфікаваныя майстры «Юрко» і «Миколай» выраблялі гарматы розных калібраў і тыпаў, ядры, кулі і гранаты. Зброя і металічныя даспехі, вырабленыя быхаўскімі замкавымі збройнікамі, карысталіся вял. попытам на Беларусі і за яе межамі. Паводле звестак 1692, у цэйхгаузе Б. з. было: 34 гарматы (шротаўніцы, палявыя, марціры, шматствольныя «арганы»), 5 з іх выраблены ў замку, 32 «свінні» волава, салетра, ядры, картузныя зарады для 3-, 4-, 6-, і 10-фунтовых гармат, артылерыйскія і ручныя гранаты (апошнія 3 тыпаў: жалезныя, драўляныя і шкляныя). Сярод інш. зброі — 1200 мушкетаў, 8 «арганаў» (мнагаствольных артылерыйскіх установак), 38 гакаўніц, старасвецкая аркебуза, 50 пар «блях гусарскіх», косы «проста насаджаныя», формы для адліўкі ядраў, жал. пікі, а таксама харугвы (баявыя сцягі). Замак перажыў шмат аблог і штурмаў. У 1648 атрад укр. казакоў на чале з Ф. Гаркушам не здолеў яго ўзяць. З жніўня 1654 на працягу 11 месяцаў яго беспаспяхова асаджалі казацкія атрады І. і В. Залатарэнкаў, якія не здолелі пераадолець «гордыню і непокорение дьявольское» быхаўскага гарнізона. У маі 1655 разлаваны Б. Хмяльніцкі загадаў адступіць ад Б. з. і «оставить курятник» у спакоі. Мужнасць быхаўскага гарнізона адзначыў спец. граматай ад 31.5.1655 кароль Ян Казімір, які вызваліў горад на 20 гадоў ад усіх падаткаў. Пасля казакоў Б. з. штурмавалі 11 палкоў рус. войска. Толькі ў пач. 1657 пасля 18-месячнай аблогі рус. войскі разам з казакамі І. Нячая штурмам узялі замак. Пасля пераходу Нячая на бок польскага караля з 14.5.1659 Б. з. асаджалі групоўкі карных атрадаў ваявод Лабанава-Растоўскага і Змеева. 4.12.1659 у выніку здрады камендантa замка немца Шульца, які адчыніў браму, замак быў узяты рус. войскам, якое ўсіх абаронцаў, асабліва шляхту, «вырубило в пень». Рус. гарнізон, які захапіў замак, у 1660 сам апынуўся ў аблозе і ў снежні 1661 здаўся 7-тысячнаму войску Рэчы Паспалітай на чале з гетманам Чарнецкім. У час Паўн. вайны 1700—21 замак двойчы быў у аблозе. Уладальнік Быхава К. Сапега перайшоў на бок шведаў, быхаўскі гарнізон рабіў напады на войскі Пятра І і караля Аўгуста ІІ. Хутка замак быў абкружаны, і генерал артылерыі ВКЛ Сініцкі дамогся яго здачы. Неўзабаве і Сініцкі перайшоў на бок Карла XII. Пётр І тэрмінова накіраваў супраць яго некалькі рус. палкоў. Пасля аблогі і бамбардзіроўкі гарнізон Б. з. капітуляваў, усю замкавую артылерыю рус. войскі вывезлі па Дняпры ў Кіеў. У далейшым Б. з. моцна пацярпеў і быў перабудаваны.

*Літ.:* 84, 118а, 212, 677, 1189.

*М. А. Ткачоў.*

**БЫХАЎСКІЯ ГАРАДСКІЯ ЎМАЦАВАННІ,** комплекс умацаванняў *Быхава* ў 16—18 ст. Мелі выгляд землянога вала (даўж. 800 м, выш. 7—8 м, шыр. ў аснове да 30 м) з бастыёнамі, равелінамі і мураванымі ўязнымі брамамі. Амаль такую ж даўжыню меў абарончы роў, у якім пастаянна была вада. Уваход і выхад з горада ажыццяўляўся праз брамы: Падольную (Дольную), што вяла на бераг Дняпра, Магілёўскую (у паўн. частцы горада) і Рагачоўскую (Навабыхаўскую), якая адкрывала шлях у гарады Падняпроўя. Будаўніцтва Б. г. ў. пачата ў 1590 уладальнікам Быхава Янам Хадкевічам, паводле каралеўскай граматы, скончана пасля 1625 пры новым уладальніку горада Л. Сапегу. Падобна інш. бел. гарадам Быхаў меў вайсковую арганізацыю мяшчан і валашчан, аб'яднаных у дзесяткі і сотні. Яны былі ўзброены халоднай і агнястрэльнай зброяй, мелі свае харугвы (баявыя сцягі), бубны і трубы, рэгулярна ставіліся на «попіс» перад мясц. адміністратарам — «губернатарам». Традыцыя «попіса» была старажытнай і яе прытрымліваліся «водлуг давнего звычаю». Павятовая шляхта таксама штогод «пописывалася на святого Михала водлуг древнего звычаю». Паводле даўняй традыцыі, усе жыхары горада штогод з вясны да замаразкаў займаліся фартыфікацыйна-буд. работамі. Яны пад наглядам «губернатара» бясплатна рамантавалі і насыпалі валы, чысцілі і паглыблялі роў. Сяляне быхаўскай воласці летам (пасеяўшы яравыя) і восенню («з поля сойдя») да замаразкаў мусілі «водлуг давней повинности своее валовую работу полнити» ў адпаведнасці з распараджэннем адміністрацыі. Мяшчанскае апалчэнне Быхава ў 16—18 ст. было першакласна ўзброена. У дакументах 16 ст. ўпамінаюцца ручніцы, гакаўніцы, пулгакі, сагайдакі (лук з калчанам і стрэламі), коп'і, панцыры кольчатыя і інш., а таксама артылерыя калібрам ад 1 да 100 фунтаў. Апрача разнастайнай халоднай зброі, як правіла, мясц. вытворчасці, у 17—18 ст. у дастатковай колькасці былі аркебузы, мушкеты, пісталеты, абушковая зброя, амуніцыя. У 1590 казакі гетмана М. Федаровіча разбурылі Быхаў, у 1648 горад быў абложаны, яго штурмавалі ўкр. казакі Ф. Гаркушы. На пачатку рус.-польскай вайны 1654—67 Быхаў выстаяў у час 11-месячнай аблогі войск укр. казакоў на чале з В. і І. Залатарэнкамі. У снежні 1654 Быхаў дэблакіравала войска Я. Радзівіла, аднак з 7.5.1655 І. Залатарэнка зноў працягваў аблогу, пагражаючы гараджанам у граматах, што «коли вас достанем праз меч, а малого дитяти живити не будем». Жыхары адказалі: «сдаваться... мы не хотим, а будем... сидеть покаместа нашей мочи будет». Неўзабаве казакі адступілі, а на іх месца прыйшлі войскі рус. ваяводы А. М. Трубяцкога, якія з кастрычніка 1655 асаджалі горад зноў разам з казакамі І. Залатарэнкі (сам Залатарэнка 8 кастрычніка быў забіты ў час вылазкі быхаўцаў). У канцы 1655 аблога была спынена, але ў пач. 1657 горад быў заняты рус. і казацкімі войскамі І. Нячая. Пасля пераходу у 1658 Нячая на бок польскага караля рус. войскі ў 1659 зноў захапілі Быхаў і ўтрымлівалі яго да снежня 1661. У час Паўночнай вайны 1700—21 Б. г. ў. двойчы ў 1701 і 1707 удала штурмавалі войскі Пятра І і яго саюзніка караля Рэчы Паспалітай Аўгуста ІІ. У 1716 рус. войскі канчаткова пакінулі Быхаў, разбурыўшы гар. брамы і бастыёны ўмацаванняў, а «место выпалить хотели, но убогие мещане со слезами едва отпросились». Толькі праз шмат гадоў пасля вайны Б. г. ў. былі адноўлены і праіснавалі да канца 18 ст.

*Літ.:* 1, 258, 746, 1189. *М. А. Ткачоў.*

**«БЮЛЕТЫН НУМІЗМАТЫЧНЫ»** («Biuletyn numizmatyczny», «Нумізматычны бюлетэнь»), часопіс Нумізматычнай камісіі Польскага археал. і нумізматычнага т-ва. Выходзіць на польскай мове з 1965, перыядычнасць — 10 выпускаў у год. Друкуе матэрыялы па нумізматыцы навуко-

ва-папулярнага кірунку, перавага аддаецца гісторыі грашовага абарачэння Рэчы Паспалітай.

**БЯЗВО́ДНАЕ,** гарадзішча штрыхаванай керамікі культуры каля в. Бязводнае Вілейскага р-на. За 500 м на ПнЗ ад вёскі, на паўд.-ўсх. краі ўзвышша. Пляцоўка авальная, памерам 67×50 м, схілы стромкія, выш. 15—17 м. З паўд.-ўсх. боку ўмацавана валам выш. 1,5—2 м і ровам глыб. ад грэбеня вала да дна 6 м, шыр. у верхняй частцы 13—15 м. Адкрыў і даследаваў у 1967 А. Р. Мітрафанаў. Культурны пласт у цэнтры 0,5, каля вала 1 м. Знойдзены фрагменты штрыхаванага посуду і кавалкі абмазкі сценак жытлаў. Датуецца 1—4 ст.



Бярдыш 12 ст. з Віцебска.

**«БЯЛАСТО́ЦКІ НУМІЗМА́ТЫК»** («Białostocki numizmatyk», «Беластоцкі нумізмат»), часопіс Беластоцкай секцыі Польскага археал. і нумізматычнага т-ва. Выдаецца на польскай мове з 1986 неперыядычна. Змяшчае матэрыялы па нумізматыцы ВКЛ і Рэчы Паспалітай.

**БЯЛЬМО́НТЫ,** пашыраная ў навук. л-ры назва курганнага могільніка 8—10 ст. Гл. *Ахрэмаўцы.*

Сярод знаходак — жал. і бронзавыя спражкі, пярсцёнак, 5 бронзавых лунніцападобных скроневых кольцаў, фрагменты бронзавага ўпрыгожання, ляпныя пасудзіны. Магільнік належаў балта-славянскаму насельніцтву. Датуецца 8—10 ст.

*Літ.*: 916.

**БЯРДЫ́Ш** (польск. berdysz), старадаўняя халодная зброя ў выглядзе сякеры з лязом у форме паўмесяца (даўж. 0,4—1 м) з доўгім драўляным дрэўкам (даўж. 1,8—2 м). Адсутнасцю вострага кап'я Б. адрозніваўся ад *алебарды.* Вядомы ў краінах Стараж. Усходу, у 15—пач. 18 ст.— ва ўсёй Еўропе. Б.— масавая зброя гараджан і сялян-паўстанцаў, гар. варты і брамнікаў. З укарочаным і патоўшчаным дрэўкам Б. (з 1674 у войску Рэчы Паспалітай) выкарыстоўваўся як сякера для пабудовы драўлянай агароджы ваеннага лагера, стварэння лясных засек, завалаў і інш. Б. знойдзены ў Віцебску, Мінску, Брэсце, Мядзеле, Гродне і інш. гарадах. У Рус. дзяржаве 16—17 ст. ім былі ўзброены пераважна стральцы, якія насілі Б. на рамяні за плячыма. Б. служыў таксама падстаўкай-фаркетам для вядзення агню з агнястрэльнай зброі.

*Літ.*: 526, 1423. *М. А. Ткачоў.*

**БЯРО́ЗАЎСКІ КЛЯШТА́Р КАРТЭЗІЯ́НЦАЎ,** помнік архітэктуры 17 ст. Пабудаваны ў 1648—89 у г. Бяроза. Агульная пл. больш за 1,5 га. Вызначаюць 2 функцыянальныя зоны: у знешняй (самай вялікай) размяшчаліся жылыя памяшканні манахаў, бібліятэка, трапезная, шпіталь, аптэка, гасп. пабудовы з сажалкай і садам. У кляштар вяла брама, прыстасаваная да абароны. Уся тэр. комплексу была абнесена мураванай сцяной з 5 абарончымі вежамі. Цэнтр. месца ў кляштары займаў касцёл і далучаныя да яго келлі манахаў-самотнікаў. Дамінантай з'яўлялася 8-гранная шмат'ярусная вежа-званіца, прыбудаваная да гал. апсіды касцёла, на якой знаходзіліся гарматы. Археал. даследаванне помніка ў 1989 праводзіла экспедыцыя Бел. рэстаўрацыйна-праектнага ін-та (кіраўнік А. І. Дзярновіч). Раскопкамі ўстаноўлена, што падмуркі жылых памяшканняў кляштара зроблены на глыб. 1,5—2 м ад сучаснай паверхні. Іх аснаванні выкладзены з камянёў дыям. 20—70 см і крыху выступаюць з асн. аб'ёму. У муроўцы кляштара (у т. л. падмурка) выкарыстана цэгла светла-карычневага колеру, памеры 27,3—28×14,6—15×6,1—6,6 см. Змацоўвалася муроўка вапнаваю рошчынай. У раскапаных памяшканнях знойдзена керамічная плітка ад падлогі, памеры 21—21,2×21—21,2×5—5,5 см. У шурфе, закладзеным у дворыку агульнай зоны, знойдзены рэшткі падмурка, выкладзенага з камянёў, змацаваных вапнавай рошчынай. Будынак, відаць, быў зруйнаваны ў час Паўн. вайны 1700—21. Выяўленыя падмуркі даюць падставу меркаваць, што ў кляштары ў 17—пач. 18 ст. былі іншыя будынкі, не пазначаныя на плане 19 ст. Цікавая знаходка — фрагменты зялёна паліванай дахоўкі 17 ст. (таўшч. 1,5—2,3 см, выш. трапецаідальнага шыпа 2,5—3 см). Каля брамы трапляюцца фрагменты дахоўкі 17 ст., пакрытыя карычневай палівай. Тое, што кляштар быў заснаваны на незаселеным месцы, пацвярджаецца знаходкамі, якія датуюцца не раней 17 ст. Стратыграфічна культурны пласт падзяляецца на 3 гарызонты: баласт 19—20 ст., пласты канца 17—18 ст і сярэдзіны 17 ст. (перыяд будаўніцтва кляштара). Знойдзены макотры, рынкі, талеркі і міскі, паліваныя і непаліваныя гаршкі



**Бярозаўскі кляштар картэзіянцаў.** Шурф каля былога галоўнага фасада касцёла.



Фрагмент плоскай дахоўкі сярэдзіны 17 ст. з **Бярозаўскага кляштара картэзіянцаў.**

з амаль вертыкальнай шыйкай і нявял. патаўшчэннем на канцы. Такая форма венчыкаў характэрна для керамікі 17—19 ст. Асаблівасцю бярозаўскай керамікі з'яўляецца выкарыстанне белых тлустых глін. На большасці фрагментаў тэракотавай кафлі 17—18 ст. пераважна раслінны арнамент, у фармовачнай масе таксама значная частка белай гліны.

*А. І. Дзярновіч.*

**БЯРО́ЗКІ,** паселішча *верхнедняпроўскай культуры* каля в. Бярозкі Добрушскага р-на. На Пд ад вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Іпуць, ва ўрочышчы Селішча. Адкрыў у пач. 1900-х г. Е. Р. Раманаў, даследавала ў 1975—76 А. Г. Калечыц.

Выяўлены шматлікія рэшткі крамянёвай вытворчасці, (адшчэпы, пласціны, нуклеусы), загатоўкі і гатовыя прылады працы (скрабкі, скоблі, сякеры, цёслы, праколкі, свярдзёлкі, адзінкавыя трапецыі), пласціністыя наканечнікі стрэл, фрагменты ляпнога посуду, упрыгожаныя лапчастым і ямкавым арнаментам, наколамі, вуглом адступаючай лапаткі.

*Літ.*: 981.

**БЯРЭ́ЗІНСКІ КУРГА́ННЫ МО́ГІЛЬНІК**, каля г. Беразіно. Насупраць паўд. ускраіны горада, на левым беразе Бярэзіны, ва ўрочышчы Прыбар. 3 насыпы выш. 1—1,1 м, дыям. 7—9 м. Адзін з іх пашкоджаны (раней тут было 12 курганоў). Адкрыў у 1930 І. Р. Калодкін, даследаваў 3 курганы ў 1931 А. М. Ляўданскі, абследавала ў 1979 Т. С. Бубенька. Пахавальны абрад — трупаспаленне. Знойдзены пацеркі, бронзавыя ўпрыгожанні, ляпныя гаршкі. Датуецца 10—12 ст.

*Літ.*: 718.

**БЯРЭ́ЗНІЦА**, курганны могільнік каля в. Бярэзніца Пружанскага р-на. За 1,1 км на ПдЗ ад вёскі, на ўскраіне сасновага бору, ва ўрочышчы Пель. 11 насыпаў выш. 0,35—0,8 м, дыям. 8,3—12,5 м, аплылі, зараслі кустамі, некаторыя — дрэвамі, 3 пашкоджаны ямамі. Вядомы з 19 ст., абследавалі ў 1970 А. Р. Мітрафанаў, у 1983, 1985 Т. М. Каробушкіна, у 1986 яна раскапала 1 курган. Пахавальны абрад — трупаспаленне за межамі кургана. У цэнтры насыпу ў ямцы дыям. 30 см, глыб. 27 см на пласце попелу знойдзены перапаленыя косці, у насыпе таксама спаленая драўляная прамавугольная канструкцыя памерам 1,1×1 м. Адзін з самых стараж. з вядомых на Сярэднім Пабужжы могільнікаў. Датуецца 6—7 ст. н. э.

*Літ.*: 591. *Т. М. Каробушкіна.*



Агульны выгляд гарадзішча **Бяскатава.**



Агульны выгляд раскопу аднаго з курганоў курганнага могільніка **Бярэзніца.**

**БЯСКА́ТАВА**, археал. помнікі каля в. Бяскатава Гарадоцкага р-на.

Гарадзішча днепра-дзвінскай і банцараўскай культур. На паўд. ускраіне вёскі, на пагорку выш. 20 м. Мясц. назва Папова Гара. Даследаваў у 1965 К. П. Шут. Культурны пласт 1 м. Знойдзены ляпная гладкасценная і тэкстыльная кераміка, фрагменты ганчарных гаршкоў.

Селішча банцараўскай культуры. Побач з гарадзішчам. Плошча 1 га. Сабрана ляпная гладкасценная кераміка. Датуецца 5—8 ст.

Курганны могільнік крывічоў. За 300 м на У ад гарадзішча. 12 насыпаў: адзін доўгі (25×10 м, выш. 2 м), 4 падоўжаныя (15×10 м, выш. 2 м) і 7 круглых (дыям. 6—8 м, выш. 1—1,5 м). У 1975 Г. В. Штыхаў даследаваў 2 курганы.

У адным пад насыпам выяўлена попельна-вугальная праслойка: трупаспаленне нябожчыцы зроблена на месцы і змешчана ў авальную ямку. Знойдзены 2 касцяныя фігуркі птушак, бронзавае плоскае скроневае кольца з адтулінамі для трапецападобных падвесак, шкляная зялёная пацерка, касцяны круглы гузік, ляпны гаршчок. У другім кургане на грунце сляды агню, у неглыбокай ямцы вуглі. Прыкмет пахавання няма.

Датуецца 8—9 ст.

*Літ.*: 895, 1368. *Г. В. Штыхаў.*

# В

**ВАГАВА́Я СІСТЭ́МА** ў манетнай справе, суадносіны вагавой адзінкі і яе фракцый, якія зафіксаваны ў пэўнай *лікавай сістэме.*

**ВАГА́НАВА** Ала Мікалаеўна (н. 5.7.1948, с. Старанікольскае Ленінскага р-на Маскоўскай вобл.), беларускі археолаг. Канд. гіст. навук (1985), дацэнт (1986). Скончыла БДУ (1972). Супрацоўнік Дзярж. музея БССР (1973—75), з 1975 выкладае ў БДУ. Даследуе праблемы сацыяльнай тыпалогіі паселішчаў эпохі Кіеўскай Русі, пытанні ўмацавання сядзіб-замкаў 11—13 ст. Адзін з аўтараў навучальнага дапаможніка для студэнтаў вну «Гістарычнае краязнаўства Беларусі» (1980). Удзельнічала ў археал. экспедыцыях БДУ у Рагачове, *Вішчыне, Гарадзішчы* Мядзельскага р-на, *Івані.*

*Тв.*: Из истории изучения феодальных замков Древней Руси // Весн. Беларус. ун-та. Сер. 3. 1980. № 3; Историческая география и типология древнерусских феодальных замков XI — XIII веков // Там жа. 1987. № 1; Материальная культура древнерусских феодальных замков // Древнерусское государство и славяне. Мн., 1983. *А. А. Егарэйчанка.*

**ВА́ГІ**, прылада для вызначэння масы каштоўных металаў і вырабаў з іх. Паяўленне В. звязана з выкарыстаннем у грашовым абара-

чэнні абрэзкаў і розных вагавых норм куфіцкіх *дырхемаў*, зніклі са спыненнем паступлення манетнага металу. У 2-й пал. 10—11 ст. на тэр. ўсх., паўн. і цэнтр. Еўропы былі пашыраны кішэнныя В., якія мелі складныя каромыслы-рычагі (даўж. ў разгорнутым стане 12—14 см), трымальнік-вушак, апорныя шчакавіны, правіла, балансірны штыфт, шалі (мацаваліся на льняной нітцы або металічным ланцужку). Найчасцей В. выраблялі з медных сплаваў (цынкавых або алавяністых са значнымі дамешкамі свінцу), часам з жал. правілам; усе дэталі мацаваліся заклёпкамі. Складзеныя каромыслы (даўж. каля 7 см) укладалі ў шалі (дыям. 8—10 см), В. разам з наборам гірак — у футарал. В. прызначаліся для ўзважвання рэчаў масай да 100—150 г з дакладнасцю да 0,01 г. На Беларусі знойдзены цэлыя В. (без шаляў) у Лідзе, шалі ў Ваўкавыску, Дроздаве, Друцку.

*Літ.*: 806, 1627, 1640. *І. І. Сінчук.*



А. М. **Ваганава.**

**ВАДАЛЕЙ**, металічная літая пасудзіна, якая выкарыстоўвалася ў сярэднявеччы для мыцця рук. Мела выгляд рэальных ці фантастычных жывёл, коннікаў, чалавечых галоў, бюстаў і інш. Адлівалі з бронзы ці серабра, аздаблялі чаканкай або гравіраваннем. Найб. цікавы В. 1-й пал. 13 ст. ў выглядзе коннага рыцара выяўлены ў Гродзенскай Барысаглебскай царкве. Зроблены ў Паўн. Германіі. Выш. 24 см, даўж. 19 см. Коннік у доўгай падперазанай кашулі без рукавоў, надзетай на кальчугу, на галаве каня капюшон з адтулінамі для вачэй і вушэй. Вада налівалася праз адтуліну ў ілбе каня і выцякала з яго рота.

*Літ.*: 296.

**ВАЗНЯЧУК** Леанід Мікалаевіч (5.8.1929, Мінск — 1.2.1981), беларускі геолаг. Канд. геолага-мінералагічных навук (1963). Скончыў БДУ (1950). У 1953—56, 1964—69 на выкладчыцкай рабоце ў Мінскім педінстытуце і БДУ, з 1969 у Ін-це геахіміі і геафізікі АН БССР. Сумесна з супрацоўнікамі сектара археалогіі Ін-та гісторыі АН БССР правodзіў комплекснае даследаванне плейстацэнавых адкладаў, паказаў іх ролю ў вывучэнні гісторыі першабытнага чалавека. Стварыў першую на Беларусі радыевугляродную лабараторыю для вызначэння абсалютнага ўзросту плейстацэнавых адкладаў па ізатопу $C^{14}$, у якой былі вызначаны першыя абсалютныя даты верхнепалеалітычных стаянак *Бердыж* і *Юравічы*. У стратыграфічна-палеаграфічнай схеме даў падрабязную гісторыю развіцця фаз новавалдайскай стадыі апошняга зледзянення, звязаў яе з гісторыяй першабытнага чалавека.

*Тв.*: Геологические условия залегания палеолитических стоянок на территории Белоруссии (разам з М. М. Цапенка, У. Дз. Будзько) // Рабочее совещание по принципам периодизации и стратиграфии палеолита Восточной Европы: Тез. докл. М., 1959; Геалагічнае мінулае Беларусі. Мн., 1959 (разам з А. С. Махначом); О значении Бердыжской палеолитической стоянки для определения возраста речных террас бассейна Днепра (разам з У. Дз. Будзько) // Тез. докл. к конф. по археологии Белоруссии. Мн., 1969; Палеолитическая стоянка Бердыж (разам з У. Дз. Будзько, А. Г. Калечыц) // Археологические открытия 1970. М., 1971.

**ВАЙШКУНЫ**, курганны могільнік балтаў каля в. Вайшкуны Пастаўскага р-на. За 2 км на ПнУ ад вёскі, ва ўрочышчы Магілы (Гарэлы Бор). 21 насып дыям. 6—10 м, выш. 0,3—1,5 м (пераважаюць курганы дыям. 7—9 м, выш. 0,5—1 м). Больш высокія — у цэнтр. частцы, больш нізкія — у заходняй. Вакол большасці насыпаў ёсць раўкі з перамычкамі (ад 3 да 6). 6 насыпаў з запалымі вяршынямі. Абследавалі ў 1938—39 Г. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіч, у 1975 даследаваў 9 курганоў ва ўсх. і паўн. частках могільніка Я. Г. Звяруга. Пахавальны абрад — трупапаленне на гарызонце і ў насыпе.

У большасці курганоў выяўлены рэшткі вогнішчаў дыям. 5—6 м. Пахавальны інвентар — жал. сякеры з шырокім лязом і круглай абуховай адтулінай, наканечнік кап'я падоўжанаяйцападобнай формы, шыла, шпілька з рухомай кольцападобнай галоўкай, званочак для жывёлы, бронзавыя званочкі з крыжападобнай прарэззю, спіралькі, ланцужкі, абломкі шыйных грыўняў, бранзалетаў і інш. упрыгожанняў, разнастайныя па памерах і форме зліткі з бронзы, гліняныя прасліцы, ганчарная кераміка.

Датуецца 9—11 ст.

*Літ.*: 424, 436. *Я. Г. Звяруга.*

**ВАКОЛЬНЫ ГОРАД**, частка стараж.-рус. горада побач з *дзядзінцам*, абнесеная валамі і равамі. Звычайна *пасад* станавіўся В. г., утвараючы 2-ю палосу абароны горада. У 12 ст. В. г. мелі буйныя гарады. Паводле Іпацьеўскага летапісу, у 1274 быў у Навагрудку. Валы і равы В. г. 12—13 ст. зберагліся ў Ваўкавыску, Друцку, Тураве.

*Літ.*: 1345.

**ВАЛ**, гл. ў арт. *Абарончыя збудаванні.*

**ВАЛАТОЎКІ**, народная назва стараж. курганнага могільніка. Найб. пашырана на Пн Беларусі, у сумежных з ёй раёнах Смаленшчыны, Пскоўшчыны і ўсх. Латвіі, у асн. супадае з арэалам рассялення *крывічоў*. Паводле легенд, у курганах быццам бы пахаваны волаты-асілкі — персанажы бел. міфалогіі. У паданнях пра волатаў спалучыліся стараж. ўяўленні пра час і прастору, пра 3 сусветныя ярусы, з якіх падземны ярус асацыіраваўся з жыццёвай зімой, і волатаў адносілі да гэтага ніжняга, «зімовага» свету. Некаторыя даследчыкі лічаць волатаў не проста асілкамі, а памёршымі продкамі, што былі пасрэднікамі паміж богам Вялесам і жывымі людзьмі і мусілі спрыяць будучаму ўраджаю. У актавых дакументах 16—17 ст. урочышчы В. засведчаны на Віцебшчыне. На думку чэшскага славіста П. І. Шафарыка, першапачатковымі насельнікамі Беларусі былі велеты ці люцічы, пра якіх у 2 ст. н. э. пісаў Пталамей. У 8—12 ст. велеты вялі ўпартую барацьбу су-





**Вагі** са складным каромыслам з Лідскага замка (унізе ў разгорнутым выглядзе).

працъ германскага панавання. Адсюль узнік іх эпітэт «ваўкі». Становўча адносіліся да гіпотэзы Шафарыка В. Ю. Ластоўскі і Я. Ю. Лёсік. У 1928 М. І. Каспяровіч на аснове распаўсюджанай анкеты пра «волатаў, люцічаў і ваўкоў» выказаў меркаванне, што з назвай курганоў В. звязана ўяўленне пра народ волатаў — продкаў беларусаў. В. называюцца шэраг помнікаў *доўгіх курганоў паўночнай Беларусі культуры* з крэмацыяй, а таксама курганныя могільнікі 10—12 ст. з трупапалажэннем на Віцебшчыне і ў суседніх раёнах. Урочышчы В., дзе ёсць курганы, зафіксаваны каля г. п. *Друя*, вёсак Куранец (Вілейскі р-н), *Бельчыца, Лінск, Малышкі, Пуканаўка-1, Сакольнікі*, а таксама Бяздзедавічы Полацкага, Валатоўкі Шумілінскага, Верхняе, Зарубчыкі, Мамаі Глыбоцкага, Галубова Гарадоцкага, Еды Шаркоўшчынскага, Забаенне, Стаўбцы Чашніцкага, Іжа Вілейскага, Махіроўка Міёрскага, Палессе Мядзельскага, Стараселле Лепельскага р-наў. Варыянтамі В. з'яўляюцца назвы Малатоўкі і Калатоўкі (вёскі Занарач Мядзельскага р-на, *Ізбішча* і інш.).

*Літ.*: 364, 505, 886, 1087, 1340, 1401.

*Г. В. Штыхаў, Э. М. Зайкоўскі.*

**ВАЛЕЎКА**, археал. помнікі каля вёскі Валеўка Навагрудскага р-на. За 4 км на Пд ад вёскі.

Стаянка эпохі мезаліту. На зах. беразе воз. Свіцязь. Амаль размыта. У 1870-я г. крамянёвыя прылады знайшоў тут Я. Завіша, даследавалі ў 1957 Н. М. Гурына, у 1972 М. М. Чарняўскі.

Знойдзены крамянёвыя наканечнікі стрэл, скрабкі, нажападобныя пласціны, мікраліты, нуклеусы. Частка знаходак мае прыкметы, характэрныя для позняга палеаліту.

Курганны могільнік. Каля турбазы «Свіцязь», справа ад шашы Навагрудак — Свіцязь, у лесе. 30 курганоў добрай захаванасці, выш. 0,7—2,5 м, дыям. 4—12 м. Адзін курган прадаўгаваты, выш. 2,5 м, шыр. 6 м, даўж. 18 м. Адкрыла ў 1957 Ф. Д. Гурэвіч, абследаваў у 1975 М. А. Ткачоў.

*Літ.*: 288.

**ВАЛКАЛАТА**, курганны могільнік балтаў каля в. Валкалата Докшыцкага р-на. На правым беразе р. Сэрвач. Даследавалі 4 курганы ў 1938—39 Г. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіч, абследаваў у 1972 А. Р. Мітрафанаў. Пахавальны абрад — трупаспаленне на гарызонце (2 насыпы); сярод вуголля — фрагменты ляпной пасудзіны. У 2 курганах пахаванні не выяўлены, знойдзены абломкі ляпных пасудзін і жал. серп. Датуецца 6—8 ст.

*Літ.*: 272.

**ВАЛУНЫ САКРАЛЬНЫЯ**, культавыя археал. помнікі, вядомы ў многіх народаў свету. На Беларусі іх выяўлена больш за 200, некато-

ſzy dobrze a ſtáreczniе ſprobowác/ taka onich wiadomosc wſzem y káżdemu w Koronie y Páńſtwach náſzych czynimy. Naprzod.

1 TALER/ pod textem SANCTVS VICTOR: MART. Z drugiey ſtrony/ Moneta noua Argentea Batenborg. Száczunek iego groſzy Polſkich trzydzieſci / pieniedzy máłych Polſkich cztérnaſcie.

2 Pod textem Sanctus Victoris Martyr: Z drugiey ſtrony/ Argentum nouum Batenb. 30. ſtuffer. Szaczunek iego groſzy trzydzieſci/ pieniedzy máłych Polſkich trzy.

3 Pod textem Sanctus Victor Martyr: Z drugiey ſtrony/ Ferdinandus Romano. Imp. Semp. Aug. Szaczunek iego groſzy trzydzieſci / pieniedzy máłych Polſkich dziewiec.

4 Pod textem Sanctus Victor Martyr: Z drugiey ſtrony/ Nouus D. Batenb: triginta Stufferof. Szacunek iego groſzy trzydzieſci/ pieniedzy máłych Polſkich dziewiec.

5 Pod textem Dena nouus Batenb: triginta Stuferos Z drugiey ſtrony/ Domine conſerua nos in pace A: 1 5 6 4. Szaczunek iego groſzy trzydzieſci / pieniedzy máłych Polſkich siedm.

6 Pod textem Sanctus Martinus Patronus Verdenſis, Z drugiey ſtrony Philippus A: Nommeen. CO.D. HOR N. Saczunek iego groſzy trzydzieſci/pieniedzy máłych Polſkich osm.

7 Pod textem Sanctus Martinus Patronus VVerren: z drugiey ſtrony/ Phils Bar: D. Monem: Co: Horn. D. D. Veru Száczunek iego groſzy trzydzieſci/ pieniedzy máłych Polſkich osm.

8 Pod textem Moneta noua Argen: Recheime Mens: z drugiey ſtrony / Sanctus Petrus Patronus A. 1 5 6 3. Száczunek iego groſzy trzydzieſci y ieden/ pieniedzy máłych Polſkich dwánaſcie.

9 Pod textem Mon: noua Argent Recheimens: Z drugiey ſtrony/ Ferdinand. Romano. Imp: Semp. Auguſtus. Szaczunek iego groſzy trzydzieſci y ieden/ pieniedzy máłych Polſkich czternaſcie.

10 Pod textem Sancta Maria Thorenſis Eccleſie: z drugiey ſtrony/ Denarius nouus triginta ſtuferorum: Szaczunek iego/ groſzy trzydzieſci/ pieniedzy máłych Polſkich ſzeſnaſcie.

11 Bez textu z wyobrażeniem. Szaczunek iego/ groſzy dwádzieſcia y dziewiec/ y pol pieniedza máłego Polſkiego.

12 Pod textem Georgius ab Auſtria Dei gra: Z drugiey ſtrony/ EPS Leod. Dux Bull: Coloſs: Szaczunek iego/ groſzy trzydzieſci y ieden/ pieniedzy máłych Polſkich czterzy.

Pod



Да арт. **Вальвацыя.** Вальвацыйная табліца з «Універсала караля Жыгімонта Аўгуста ад 14 чэрвеня 1567 года».

рыя маюць назвы: Князь-камень, Вялікі камень, Чортаў камень (гл. *Камяні «чортавы»*), Сцяпан, Мядзведзь, Быкі і інш. Паводле нар. паданняў пад аднымі валунамі закапаны скарбы, каля другіх апоўначы скачуць чэрці, некаторыя атаясамліваюць з людзьмі, якія акамянелі з-за працы ў святочныя дні. У старажытнасці каля шматлікіх камянёў адпраўлялі язычніцкія культы, праводзілі малебны (Даждж-бог, Пярун, Дзявочы камень), сюды прынасілі падарункі (грошы, тканіны, ручнікі, ежу). Над некаторымі валунамі будавалі капліцы і храмы (у Жыровічах, Барысаве, Чырвонай Слабадзе). Найб. распаўсюджаныя В. с. *камяні-краўцы*, камяні-*следавікі*, *камяні з паглыбленнямі*. Гл. таксама *Барысавы камяні*.

*Літ.:* 136, 348, 813. *Л. У. Дучыц.*

**ВАЛЫНЯНЕ**, велыняне, усходнеславянскае племя (магчыма, саюз плямён), якое жыло ў канцы 1-га — пач. 2-га тысячагоддзя н. э. ў басейне верхняга цячэння Зах. Буга і каля вытокаў Прыпяці. Іх паўночныя суседзі — *бужане*. Археал. раскопкамі высветлена, што В. са стараж. часоў жылі асела, займаліся земляробствам, жывёлагадоўляй,ляснымі промысламі. Паводле звестак географа Баварскага, у сярэдзіне 9 ст. В. (Velunzani) мелі 70 «гарадоў» (замкаў). У 10 ст. ў іх развіваліся феад. адносіны. Арабскі географ аль-Масудзі паведамляў у 2-й пал. 10 ст. пра «валінана» і «дулаба», якіх у гістар. літаратуры прынята лічыць В. і *дулебамі*. У 10 ст. на тэр. рассялення В. існавала Уладзіміра-Валынскае, а пазней Галіцка-Валынскае княства. З сярэдзіны 14 ст. В. ў складзе ВКЛ. Пасля Люблінскай уніі 1569 у складзе Польшчы.

*Літ.:* 65, 875а, 1181, 1245а. *І. А. Юхо.*

**ВАЛЬВАЦЫЯ** (ад лац. valeo меццю значэнне, каштаваць), афіцыйнае устанаўленне вартасці замежных ці айчынных манет, бітых раней па іншай *стапе* манетнай. У краінах Зах. і Цэнтр. Еўропы ў канцы 15—18 ст. друкавалі вальвацыйныя табліцы, па якіх без дадатковых падлікаў можна было перавесці вартасць рознай колькасці замежных манет у вартасць айчынных.

*Літ.:* 1742, 1743.

**ВАЛЬЦОЎКА**, гл. ў арт. *Тэхніка манетнай справы.*

**ВАНЮЖЫЧЫ**, курганныя могільнікі дрыгавічоў каля в. Ванюжычы Петрыкаўскага р-на.

Курганны могільнік-1. За 2 км на Пн ад вёскі, за 300 м на ПнУ ад могілак, ва ўрочышчы Курганы. 80 насыпаў, захаваліся 32 выш. 0,5—1,5 м, дыям. 6—8 м. Адкрыў і даследаваў 23 насыпы ў 1889 У. З. Завітневіч, абследаваў у 1976 В. І. Шадыра. Пахавальны абрад — трупапалажэнне галавой на З на гарызонце, у ямах глыб. 1,2 м, у дамавінах; у адным насыпе выяўлена 6 касцякоў.

Знойдзены пярсцёнкападобныя і трохпацеркавыя скроневыя кольцы, вял. зярнёныя і шкляныя залачоныя пацеркі, бронзавы крыжык з 2 пацеркамі, віты пярсцёнак, нож, прасліцы, гаршкі.

Курганны могільнік-2. За 700 м на У ад могільніка-1, ва ўрочышчы Студзёны Калодзеж. Было 10 насыпаў. Даследаваў 2 курганы ў 1889 Завітневіч. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце галавой на З. Могільнікі датуюцца 11 ст.

*Літ.:* 380, 641, 1063. *Г. В. Штыхаў.*



Да арт. **Варагі.** Скандынаўскія знаходкі: падвеска-качачка і раўнаплечая фібула з гарадзішча Маскавічы Браслаўскага р-на, падвеска вікінга з могільніка Калодзецкая Касцюковіцкага р-на.

**ВАРАГІ** (познагрэч. Barangoi, ад стараж.-сканд. vaeringjar), усходнеслав. назва жыхароў Скандынавіі. У 9—11 ст. варажскія воіны-дружыннікі наймаліся на вайсковую службу да рус. князёў, удзельнічалі ў паходах супраць Візантыі і вандроўных плямён. Варажскія гандляры праз Фінскі заліў, Ладажскае воз., мноства малых рачулак і азёр волакам выходзілі на Волгу і спускаліся да Каспійскага мора, або па Зах. Дзвіне і Дняпры выходзілі да Чорнага мора. Шлях з Балтыйскага мора ў Чорнае атрымаў назву *шлях «з варагаў у грэкі»* (Балтыйскае мора да 18 ст. наз. Варажскім). В. ўпершыню ўпамінаюцца ў запісанай у «Аповесці мінулых гадоў» легендзе, у якой летапісец пачынаў гісторыю Рус. зямлі з запрашэння В. на Русь. На падставе гэтай легенды ў 18 ст. ўзнікла нарманская тэорыя паходжання Русі, якая прыпісвае В. ролю стваральнікаў стараж.-рус. дзяржавы. Варажскія воіны і гандляры, не адыграўшы значнай ролі ў стараж.-рус. грамадстве, хутка аславяніліся. Стараж.-рус. летапісы (Лаўрэнцьеўскі, Іпацьеўскі, Ніканаўскі і інш.) і скандынаўскія сагі (Эймундава сага, Сага пра Цідрыка Бернскага) сведчаць аб палітычных і эканам. кантактах В. з стараж. насельніцтвам на тэр. Беларусі. Скандынаўскія знаходкі (упрыгожанні, зброя, манеты і рунічныя знакі на касцях жывёл) сканцэнтраваны ў асноўным уздоўж Зах. Дзвіны і Дняпра, а таксама на Гродзеншчыне. Дзве сярэбраныя антрапаморфныя падвескі і наканечнік кап'я, упрыгожаныя сярэбранай насечкай, знойдзены ў Ваўкавыску, мячы — у Гродне, паблізу Полацка, у кургане каля Лукомля, шлем у Слоніме, жал. ланцэтападобныя наканечнікі стрэл — у Полацку, Віцебску, Лукомлі і в. *Маскавічы* (Браслаўскі р-н), падвескі з выявамі вікінгаў — у в. *Лудчыцы* (Быхаўскі р-н), *Калодзецкая* (Касцюковіцкі р-н). Нумізматычныя знаходкі прадстаўлены скарбам з Полацкага Верхняга замка, 2 скарбамі з в. Стражавічы (гл. *Стражавіцкія манетна-рэчавыя скарбы*) і скарбам з в. Новы Двор (гл. *Навадворскі манетны скарб*). На гарадзішчы Маскавічы знойдзены падкавападобная фібула з выявамі звярыных галовак на канцах і папярочнай рыфленай дугой, раўнаплечая фібула, шырокапалосныя крыжыкі, падвеска ў выглядзе вадаплаўнай птушкі з цісненым арнаментам на тулаве і больш за 100 абмломкаў касцей жывёл з нанесенымі на іх рунічнымі надпісамі і малюнкамі. Косць для гульні з рунічным надпісам знойдзена ў Полацку, касцяныя вастрыі са стылізаванымі выявамі галовак жывёл — каля вёсак *Гарадзішча* (Мінскі р-н) і *Прудзнікі* (Міёрскі р-н), футарал ад касцянога грэбеня — у Навагрудку.

*Літ.:* 274, 343, 1017. *Л. У. Дучыц.*

**ВАРАНІНО**, курганны могільнік раннеслав. часу каля в. Вараніно Быхаўскага р-на. За 1 км на ПдЗ ад вёскі, на левым беразе Дняпра. 12 курганоў выш. 0,5—1,4 м, дыям. 7—12 м. Выявіў у 1963 І. І. Арцёменка, даследавалі ў 1963 Арцёменка (1 курган), у 1964—65 Г. Ф. Салаўёва. Пахавальны абрад — трупаспаленне за межамі кургана.

Выяўлены перапаленыя косці на гарызонце ў скопішчы попелу і вугалю (5 пахаванняў) і ў круглаватых ямах дыям. 0,5—0,9 м (4 пахаванні); адно пахаванне ў скрыні з плах (памер 30×84×58 см) арыентавана ў напрамку ПнУ — ПдЗ. Два курганы без пахаванняў. Знойдзены аплаўленыя абломак бронзавай пласціны і шкляныя пацеркі, жал. нож і кольца, ляпная кераміка паводле формы і арнаменту падобная да керамікі роменска-боршаўскай культуры.

Датуецца 7—10 ст.

*Літ.:* 1114. *Г. Ф. Салаўёва.*

**ВАРАЦІШЫН КАМЕНЬ**, Варацішын хрэст, помнік эпіграфікі

ў цэнтры в. Камена Вілейскага р-на. За 100 м ад правага берага р. Вілія. Звесткі пра камень апублікаваў у сярэдзіне 19 ст. К. П. Тышкевіч. У канцы 19 ст. яго даследаваў А. П. Сапуноў, на пач. 20 ст.— Е. Р. Раманаў, у 1976 — Я. Г. Звяруга. Камень шэрага колеру, па форме падобны на звон. Выш. 1,9 м, акружнасць 10,8 м. На камені высечаны шасціканцовы крыж (выш. 1,72 м, шыр. верхняй перакладзіны 0,43 м, ніжняй 0,61 м) і надпісы «ІС ХС» «НИКА» «ВОРОТИШИН ХРЬСТЬ». Захаваліся сляды пашкоджанага нечытэльнага надпісу. Паводле палеаграфічных даных мяркуюць, што надпісы выбіты ў 1-й трэці 12 ст. Народнае паданне звязвае камень з аратым, пераўтвораным у камень за працу ў святочны дзень.

*Літ.*: 759, 983, 1147.

*Л. У. Дучыц, Я. Г. Звяруга.*

**ВАРГАНЫ**, археал. помнікі каля в. Варганы Докшыцкага р-на.

Гарадзішча дзвінскай і штрыхаванай керамікі культур. На ўскраіне вёскі на вял. узвышшы, злева ад шашы на Глыбокае. Мясцовая назва Варганская гара. Пляцоўка памерам 60×50 м. Абследаваў у 1949, 1965 і 1972 А. Р. Мітрафанаў. Культурны пласт 0,4—0,6 м. Выяўлена ляпная гладкасценная і штрыхаваная кераміка.

Селішча *банцараўскай культуры*. З Пд прымыкае да гарадзішча. Выявіў і даследаваў у 1965 Г. В. Штыхаў, абследаваў у 1972 Мітрафанаў. Культурны пласт 0,2—0,8 м. Знойдзены рэшткі наземнага жытла зрубнай канструкцыі з печчу-каменкай, жал. серп і шылы, 2 гліняныя формачкі для адліўкі бронзавых упрыгожанняў, біканічныя праслiцы, кераміка. Датуецца 6—8 ст.

Курганны могільнік-1 *крывічоў*. За 500 м на ПдУ ад гарадзішча. 3 насыпы даўж. 8—9 м, шыр. 5—7 м, выш. 1 м. 2 курганы даследаваў у 1972 Мітрафанаў. Пахавальны абрад — трупаспаленне. У адным кургане пахаванне пад насыпам у грунце, у другім — у ямцы, накрытай гаршком. У пасудзіне знаходзіліся перапаленыя косці і жал. гітарападобная спражка. Датуецца 8—9 ст.

Курганны могільнік-2. За 1 км на Пд ад вёскі, ва ўрочышчы Калдоба. 3 насыпы выш. да 1,5 м, дыям. 7—8 м. Вядомы з канца 19 ст. Абследавалі ў 1965 Штыхаў, у 1972 Мітрафанаў.

Курганны могільнік-3. За 2,5 км на Пд ад гарадзішча, каля дарогі ў в. Грабучае. 40 курганоў выш. да 1 м, дыям. 7—8 м. Вядомы з канца 19 ст. Абследавалі ў 1965 Штыхаў, у 1972 Мітрафанаў.

*А. Р. Мітрафанаў.*




Гліняныя ліцейныя формы (4, 5), праслiцы (2, 3, 6), жалезныя серп (1), шылы (7, 8) з селішча **Варганы**.



Гліняны ляпны посуд з могільніка **Вароніна** (Жыткавіцкі р-н).

**ВАРДЭЙН,** мінцвардэйн (ням. wardein ад італьян. guardare назіраць), упаўнаважаны па назіранню за дзейнасцю манетнага двара. Кантраляваў службовых асоб, у т. л. дзейнасць *мінцпрабірэра* і *мінцмайстра*, вагі і гіры, адбор і захаванне кантрольных проб кожнай плаўкі, пробу лігатурнага металу, ажыццяўляў кантроль за *рэмедыумам.* Пасада В., характэрная для манетных двароў Еўропы, на расійскіх манетных дварах існавала ў 18 ст.

*Літ.*: 1527.

**ВАРО́НІН** Мікалай Мікалаевіч [30.11(13.12).1904, г. Уладзімір — 4.4.1976], савецкі археолаг і гісторык мастацтва. Д-р гіст. навук., праф. (1946). Скончыў Уладзімірскі ін-т нар. асветы (1923), Ленінградскі ун-т (1926). У 1932—76 навук. супрацоўнік Дзярж. акадэміі гісторыі матэрыяльнай культуры (з 1959 Ін-т археалогіі АН СССР). Вывучаў гісторыю культуры і дойлідства гарадоў Стараж. Русі. У 1949 рабіў раскопкі на Замкавай Гары ў Гродне. выявіў 2 цагляныя крапасныя вежы 12 ст., храм з маёлікавай падлогай, жылыя будынкі. Вывучаў таксама збудаванні і фрэскі Бельчыцкага Барысаглебскага манастыра каля Полацка. Рэдактар і адзін з аўтараў «Гісторыі культуры Старажытнай Русі» (т. 1—2, 1948—51). Дзярж. прэмія СССР 1952, Ленінская прэмія 1965.

*Тв.*: Древнее Гродно. М., 1954. (Материалы и исслед. по археологии СССР; № 41); Бельчицкие руины // Архитектурное наследство. М., 1956. Вып. 6; Зодчество Северо-Восточной Руси XII — XV веков. Т. 1—2. М., 1962.

*Літ.*: 185, 186. *Т. М. Каробушкіна.*



М. М. **Варонін.**

**ВАРО́НІНА,** археал. помнікі ранняга *жалезнага веку* каля в. Вароніна Жыткавіцкага р-на.

Селішча-1. За 300 м на Пн ад вёскі, на правым беразе старыцы р. Вароніна, ва ўрочышчы Ніва. Даўж. да 200 м. Абследавалі ў 1961 Ю. У. Кухарэнка, у 1961 і 1974 Л. Д. Побаль. Культурны пласт 0,6—0,7 м. Знойдзены ляпная кераміка зарубінецкай культуры і сярэднявечча, абпаленая гліна, косці і зубы жывёл.

Селішча-2. За 800 м на Пн ад вёскі, на левым беразе р. Струмень. Даўж. 200 м. Даследаваў у 1954 12 м² Кухарэнка, абследаваў у 1961 і 1974 Побаль. Культурны пласт 0,7 м. Выяўлены фрагменты грубаляпных і чорнаглянцаваных пасудзін зарубінецкай культуры.

Бескурганны могільнік. У цэнтры вёскі. У 1952—54 даследаваў 50 пахаванняў Кухарэнка, 2 пахаванні раскапаны мясц. жыхарамі. Пахавальны абрад — трупаспаленне за межамі могільніка.

Кальцыніраваныя косці змешчаны ў прадаўгаватых (арыентаваны на З — У) або круглых ямах, у двух пахаваннях — у пасудзінах-урнах ва ўсх. частцы магіл. Пахавальны інвентар — гліняныя, пераважна глянцаваныя пасудзіны розных форм (розная колькасць у кожным пахаванні). Знойдзены 18 драцяных фібул, сярод іх 7 зарубінецкага тыпу з трохвугольным шчытком, бронзавыя шпількі з кальцавымі і пляската-спіральнымі галоўкамі і спіралепадобныя бранзалеты, жал. кольцы і нажы, спражкі, бронзавая трапецападобная падвеска, сіняя шкляная пацерка з муаравым арнаментам. Па-за межамі пахаванняў выяўлены рэшткі грубаляпных і глянцаваных пасудзін, упрыгожаных часткова барозенькамі, зашчыпамі, уціскannямі, расчосамі, наляпнымі валікамі, 2 бронзавыя шпількі і фібула з трохвугольным шчытком, 3 гліняныя прасліцы, абломкі пляскатых чочак.

*Літ.*: 637, 895, 899. *А. А. Егарэйчанка.*



Гліняныя грузікі (1, 2), прасліца (3), льячка (4), выява жывёлы (5), фрагмент гаспадарчага вырабу (6), жалезныя шпора (7), часткі сярпа (8, 9), гаспадарчай рэчы (10) з гарадзішча **Варонча.**

**ВАРО́НЧА,** археал. помнікі каля в. Варонча Карэліцкага р-на.

Гарадзішча. На паўн. ускраіне вёскі, паміж р. Карчоўка і дарогай на в. Райца. Пляцоўка 110×46 м, выш. 8—9 м над поплавам. На З гарадзішча роў у напрамку Пд — Пн, глыб. 5 м, шыр. 5—7 м. Схілы пляцоўкі штучна апрацаваны для надання большай стромкасці, на Пд — 2 штучныя тэрасы даўж. 35—40 м. На ўсх. і зах. краях гарадзішча глыбокія ямы дыям. 8—10 м. Абследаваў у 1987, даследаваў 100 м² у 1988—89 У. У. Хартановіч. Культурны пласт да 1 м па краях пляцоўкі, у цэнтры — не праглядаецца. Выяўлены гасп. ямы, каменныя агнішчы, развал глінабітнай печы.

Знойдзены фрагменты штрыхаванага, гладкасценнага, глянцаванага і неглянцаванага ляпнога посуду (рабрысты і слоікападобны) з дамешкамі жарствы ў гліне, гліняныя грыбападобныя грузікі, фрагменты і цэлыя прасліцы розных форм і памераў (гладкія і арнаментаваныя), гліняная льячка, крыца, абломкі сярпоў, нажоў, утулкавы наканечнік кап'я, шпора, косці жывёл, шлакі і абпаленая абмазка.

Датуецца 1-й пал. 1-га тысячагоддзя н. э.

Селішча. На З прымыкае да гарадзішча. Даўж. да 300 м. Абследаваў у 1987 Хартановіч. Культурны пласт выяўлены часткова. Знойдзены фрагменты штрыхаванай керамікі. Датуецца 2-й пал. 1-га тысячагоддзя н. э. *У. У. Хартановіч.*

**ВАРША́ЎСКІ АРХЕАЛАГІ́ЧНЫ МУЗЕ́Й.** Адкрыты ў 1928 як Цэнтральны дзярж. музей перадгісторыі. Утвораны на аснове збораў старажытнасцей Э. Маеўскага. У фондах матэрыялы з раскопак больш за 6 тыс. археал. помнікаў (гарадоў, гарадзішчаў, могільнікаў, стаянак, паселішчаў), у т. л. ранняга жал. веку на тэр. Беларусі [Скорбічы *(гл. Дружба)* Брэсцкага р-на, *Трасцяніца, Нача*], раннефеад. перыяду (*Віцебск*, Вароніна Лепельскага, Арловічы Слонімскага, Відагошча Лагойскага р-наў, *Навасёлкі* і *Засвір*), рэчы з раскопак курганоў Лагойшчыны, што праводзілі ў 19 ст. археолагі К. П. Тышкевіч і Я. П. Тышкевіч.

*Літ.*: 897. *Г. В. Штыхаў.*

**ВАРША́ЎСКІ МАНЕ́ТНЫ ДВОР** 18 — 19 ст., цэнтр манетнай вытворчасці Рэчы Паспалітай (1765—95), Варшаўскага герцагства (1807—15), Царства Польскага ў складзе Расійскай імперыі (з 1815). У 1765—95 перыядычна чаканіў медныя *солідзы, траякі*, сярэбраныя грошы, двайныя грошы (паўзлотыя), 4-грашовікі *(злотыя), шэсць грошаў*, 8-грашовікі (двайныя злотыя), 10-грашовікі, паўталеры, *талеры*, залатыя *дукаты*, 1,5 дуката (паўстаніслаўдор), 3 дукаты *(станіслаўдор).* На манетах змяшчаліся ініцыялы адміністрата-

раў: G. або G (П. Гартэнберг, 1765—68), FS (Ф. Сульм, 1765—67), IS (Ю. Шрэдэр, 1768—72), АР (А. Партэнштайн, 1772—74), ЕВ (Э. Брэн, 1774—92), у 1791—95— абрэвіятуры MV (манета варшаўская) або MW (Варшаўскі манетны двор). У час прускай акупацыі 1795 В. м. д. закрыты. У 1810—14 чаканіў *манеты герцагства Варшаўскага* з ініцыяламі адміністратараў: IS (Я. Стокман, 1810—11), IB (Я. Бенік, 1811—15). У 1816—41 чаканіў медныя *манеты Каралеўства Польскага* з *легендамі* на польскай мове. У час паўстання 1830—31 паводле рашэння рэвалюцыйнага ўрада ў лютым — верасні 1831 чаканіліся *манеты «мяцежныя»* з гербам Рэчы Паспалітай і ініцыяламі адміністратара двара KG. У 1834—50 чаканіў *манеты двухмоўныя* расійска-польскія, таксама медныя 1 (маса 2,86 г) і 3 грошы (маса 8,57 г), білонныя 5 грошаў 1836, 1838—40 (залатніковая проба $18^2/_3$, маса 1,45 г) і 10 грошаў 1835—40 (проба $18\,^2/_3$, маса 2,91) з адзнакай наміналу на польскай мове. З 1842 чаканіліся агульнарус. сярэбраныя і залатыя, з 1850 медныя манеты: *палушка,* дзенежка (гл. *Дзенга),* 1, 2, 3, 5, 10, 20, 25 кап., *палціна,* рубель і 5 рублёў. У 1857 В. м. д. чаканіў медныя манеты (грошы, траякі) з датай 1815. Апошняя манета з дакладнай датай — капейка 1864, пасля чаканіў траякі, білонныя 5- і 10-грашовікі з датай 1840. За 1816—65 адчаканена манет на суму 17 371 179 руб. 76 кап. з ініцыяламі адміністратараў IB (1815—27), FH (Ф. Хунгер, 1815—27), KG (К. Гранаў, 1829—1934), ЕР (Е. Пуш, 1834—35). У 1842—57 манеты мецілiся абрэвіятурай MW, у 1850—64 — ВМ (варшаўская манета). 1.1.1868 В. м. д. закрыты.

*Літ.*: 1671, 1737. *В. С. Касмылёў.*

**ВАРЫЎНЯ,** с т о п к а, і с т о п к а, тып старадаўняй гасп. пабудовы для хавання на зіму агародніны, садавіны, малака, гатавання ежы для жывёлы. Абаграецца печкай-каменкай ці жарам. На Беларусі стараж. варыянт В. выяўлены пры раскопках Верхняга замка ў Віцебску ў культурным пласце 2-й пал. 13 ст. Зруб памерам 2,96×2,98 м з сасновага бярвення дыям. 18—20 см. З трох вянкоў зрубу, якія захаваліся, 2 ніжнія з неабчасанага яловага бярвення. Захавалася падлога з плах, замацаваных на 4 лагах. Выяўлена печ-каменка з камянёў памерамі 3—5×4,6—6×7—8 см. В. ўпамінаецца ў лісце канца 13 ст. рыжскіх купцоў да віцебскага кн. Міхаіла. У традыцыйным будаўніцтве В. вядома да сярэдзіны 20 ст.

*Літ.*: 646, 829. *Л. У. Калядзінскі.*

**ВАСІЛЕ́ВІЧЫ,** стаянкі каля в. Васілевічы Навагрудскага р-на. Выявіў у 1975 М. М. Чарняўскі.

С т а я н к а-1. За 1,5 км на ПнЗ ад вёскі, каля ўрочышча Пагарэлае, на выступе надпоймавай тэрасы, зарослай лесам. Знойдзены нешматлікія крамяні і фрагменты керамікі нёманскай культуры.

С т а я н к а-2. За 800 м на ПнЗ ад вёскі, на вузкім мысе левабярэжнай тэрасы Нёмана. Знойдзены крамянёвыя прылады працы і кераміка бронзавага веку.

С т а я н к а-3. За 600 м на ПнЗ ад вёскі, на высокай левабярэжнай дзюне, выцягнутай уздоўж берага Нёмана. За 150 м на Пд ад берага ракі. На цэнтр. участку памерам 40×80 м сабраны крамянёвы матэрыял часоў мезаліту і бронзавага веку, фрагменты керамікі сярэдняга этапу нёманскай культуры, ганчарных вырабаў позняга сярэднявечча.

С т а я н к а-4. За 200 м на У ад стаянкі-1, каля зах. берага Нёмана. Памер 50×90 м. Культурны пласт да 0,4 м. Знойдзены крамянёвыя прылады працы, фрагменты керамікі неаліту і бронзавага веку.

*М. М. Чарняўскі.*

**ВАСІЛЕ́ВІЧЫ,** археал. помнікі каля в. Васілевічы Слонімскага р-на. Даследавалі ў 1955 Ф. Д. Гурэвіч, у 1963—64 В. Р. Супрун.

С е л і ш ч а-1 жал. веку. За 800 м на ПдУ ад вёскі, на ўзвышаным беразе р. Шчара ва ўрочышчы Кут. Знойдзены ляпная гладкасценная кераміка, ганчарныя вырабы з лінейным арнаментам, рэтушаваны трохвугольны наканечнік стралы і інш. крамянёвыя прылады.

С е л і ш ч а - 2. У паўн.-ўсх. частцы вёскі. Знойдзены ганчарныя вырабы.

К у р г а н н ы м о г і л ь н і к. У цэнтры вёскі. 31 насып выш. да 1,3 м, дыям. 7—12 м. Выяўлена 11 пахаванняў, сярэбраная манета 16 ст. У 1965 могільнік знішчаны.

*Літ.*: 272, 1340. *В. Р. Супрун.*

**ВАСІЛЕ́ЎШЧЫНА,** археал. помнікі каля в. Васілеўшчына Дзяржынскага р-на.

С е л і ш ч а. За 1,1 км на ПнЗ ад вёскі, за 300 м ад могільніка-1, на ўзгорку каля леса. Пл. 0,4 га. Культурны пласт да 0,15 м. Адкрыў у 1987 Ю. А. Заяц. Знойдзена кераміка 11—1-й пал. 13 ст.

М о г і л ь н і к - 1. За 0,8 км на Пн ад вёскі, у лесе, злева ад дарогі на в. Слабодка. 11 курганоў выш. 0,5—1,5 м, дыям. 4—11 м. Адзін насып пашкоджаны ямай і норамі. Адкрыў у 1983, раскапаў у 1987 Заяц. У аснове насыпу на мацерыку прасочваецца пляма попелу ад рытуальнага вогнішча, на якім знойдзены рэшткі ганчарнага гаршка канца 13—14 ст.

М о г і л ь н і к - 2. За 650 м на Пн ад вёскі. 7 насыпаў. Знішчаны ў 1976.

**ВАСІЛЬКО́ЎКА,** археал. помнікі *штрыхаванай керамікі культуры* каля в. Васількоўка Лагойскага р-на.

Г а р а д з і ш ч а. Мясцовая назва Замак. За 1,5 км на ПдУ ад вёскі, на правым беразе р. Цна, на стрэлцы доўгага ўзгорка, абмежаванага з трох бакоў поймай, з захаду ручаём. Пляцоўка амаль круглая, дыям. 57—59 м, пукатая ў цэнтры. Умацавана 2 кальцавымі валамі шыр. 7—10 м і ровам глыб. 1,5 м, шыр. 9—10 м, які праходзіць паміж імі. Вядома з 1924, даследаваў у 1964, 1966, 1967 А. Р. Мітрафанаў 402 м². Культурны пласт пляцоўкі 0,2—



Вастрыё.



Жалезныя фібулы (1, 8), спражкі (2, 7, 21), крэсівы (3—5), вушка з кальцом (6), шпількі (9, 10), ключы (11, 19, 20, 22), нажніцы (12, 13), нажы (14—16), пісалы (17, 18), двайныя кручкі (23, 24), бле... (25), рыбалоўныя кручкі (26—27), зубы саставных восцяў (28—29), гарпун (30) з Ваўкавыска.

0,25 м, на краі 2—2,24 м. Выяўлены рэшткі жылых і гасп. пабудоў слупавой канструкцыі.

Адно жытло 2-камернае, памер камер 4,3—4,6×2,8 м, унутры размяшчалася агнішча падковападобнай формы (памер 1,4×1,1 м), абкладзенае напалавіну ўкапанымі ў мацярык камянямі. Гасп. пабудова падзелена на 4 памяшканні (3 памерам 3,8×2,8 м, чацвёртае, меншае, трапецападобнай формы), магчыма, гэта стойла для жывёлы. Выяўлены таксама 2 авальныя ямы-паграбы: адна памерам 1,2×0,8 м, глыб. 0,4 м, сцены абкладзены дробнымі камянямі; другая памерам 3,2×1,95 м, урэзана ў схіл пляцоўкі, магчыма, мела перакрыцце. Знойдзены фрагменты гліняных гладкасценных і штрыхаваных (пераважна) пасудзін, жал. сярпы, шылы, абломак падковападобнай фібулы, гліняныя праслiцы, абломкі сякеры, грузіка дзякоўскага тыпу і ніжняга каменю зерняцёркі.

Курганны могільнік-1. За 1 км на З ад вёскі. 21 курган выш. 1,1—2,5 м, дыям. 8—12 м. Адкрыў і даследаваў 2 насыпы Мітрафанаў, у 1976 абследаваў С. І. Лашанкоў. Пахавальны абрад — трупаспаленне. У адным кургане пахаванні размешчаны 5 ярусамі, у другім — 2 пахаванні, адно ў цэнтры насыпу. Знойдзены невял. гаршчок конусападобнай формы.

Курганны могільнік-2. За 0,5 км на З ад курганнага могільніка-1. 37 насыпаў выш. 1,2—3,1 м, дыям. 8—15 м. Адкрыў і абследаваў у 1976 Лашанкоў.

*Літ.:* 785. *А. Р. Мітрафанаў.*

**ВАСТРЫЁ,** каменная прылада працы з завостраным рэтушшу канцом. На Беларусі вядома з каменнага веку (27—2-е тысячагоддзі да н. э.). У залежнасці ад віду рэтушы, месца яе размяшчэння, формы рэтушаванага краю адрозніваюцца В. з затупленым краем, косыя і лістападобныя, па якіх можна вызначыць тып культуры археал. помніка. В. з затупленым краем тыпу гравет (*Юравічы*), падобныя на лязо сцізорыка, характэрны для культур позняга палеаліту, а тыпу Ставінога і яніславіцкага тыпу — для каморніцкай і яніславіцкай культур мезаліту. Косыя В., папярочныя краі якіх апрацаваны стромай ці паўстромай рэтушшу, тыповыя для розных культур палеаліту і неаліту. Лістападобныя В., абабітыя з аднаго ці абодвух бакоў плоскай адціскальнай рэтушшу,— для неаліту.

**ВАЎКАВЫСК,** горад, цэнтр Ваўкавыскага р-на, на р. Рось, пры ўпадзенні ў яе р. Ваўкавыя. За 102 км на ПдУ ад Гродна, вузел чыгунак на Баранавічы, Масты, Бераставіцу, Свіслач, аўтадарог на Масты, Слонім, Ружаны, Бераставіцу.

Дзядзінец В. (мясц. назва Шведская гара) займае мысмарэннай грады выш. (ад асновы да вяршыні вала) 28—32,5 м. Пляцоўка амаль круглая ў плане, памерам 50×55 м, умацавана па перыметры абарончым валам выш. з боку поля да 7 м. Уезд на дзядзінец размяшчаўся з паўд. боку. Абследавалі ў 1925 Ю. Ядкоўскі, у 1954 В. Р. Тарасенка, у 1965—66 Я. Г. Звяруга, ускрыта 540 м². Культурны пласт ад 0,6 м у цэнтр. частцы пляцоўкі да 3,5 м каля вала. Выяўлены рэшткі паўзямлянкавых (зрубнай і слупавой канструкцый) і наземных (зрубнай канструкцыі) жытлаў з печамі-каменкамі і печамі, складзенымі з каменю і гліны.

Сцены наземных жытлаў былі абмазаны глінай, некаторыя з іх мелі шкляныя вокны. Сярод знаходак асабліва шмат прадметаў узбраення, рыштунку воіна-конніка і баявога каня (наканечнікі коп'яў, стрэл, арбалетныя дэталі складаных лукаў і калчанаў, шпоры, страмёны, падковы, цуглі, вупражныя кольцы і інш.), прывазных рэчаў (амфары, ювелірныя вырабы, шкляныя бранзалеты, пацеркі, вырабы з бурштыну і інш.). Багата прадстаўлены прадметы гасп. і бытавога прызначэння, у т. л. сельскагасп. і прамысловыя прылады, інструменты рамеснікаў і іх разнастайныя вырабы. Знойдзена шмат рэчаў з косці, рога і каменю, ганчарнай керамікі, а таксама вял. колькасць касцей свойскіх і дзікіх жывёл.

Раскопкамі ўстаноўлена, што паселішча на дзядзінцы ўзнікла ў сярэдзіне або ў 2-й пал. 10 ст. Відаць, першапачаткова гэта крэпасць была сядзібай феадала (княжацкім замкам), а дзядзінцам горада стала з 1-й пал. 12 ст. У пач. 14 ст. жыццё тут спынілася.

Вакольны горад стараж. В. (вядомы пад назвай Замчышча) размяшчаўся на З ад дзядзінца і аддзяляўся ад яго шырокім ровам (цяпер моцна заплыў). Пляцоўка мае форму блізкую да трапецыі, кароткі бок якой прымыкае да дзядзінца, памерам 81×123 м, з боку поля ўмацавана валам выш. да 5 м і ровам глыб. 4—7 м. У сярэдняй частцы вала захаваліся сляды стараж. ўезда. Абследавалі ў 1925 Ю. Ядкоўскі, у 1959 П. А. Рапапорт, у 1966 М. К. Каргер, раскопкі праводзілі ў 1948 і 1958 Г. І. Пех, у 1954—56 Тарасенка, у 1965 і 1967 Звяруга, даследавана 2196 м². Культурны пласт ад 0,3 м (у цэнтр. і ўсх. частках пляцоўкі) да 2,1 м (каля вала). Выяўлены рэшткі паў-



Прывескі-абразкі (1, 13), гузікі (2, 12), ажурныя прывескі (3, 5), гравіраваны медальён (4), манетападобныя прывескі (6, 7), лунніца (8), амулет-змеявік (9), бразготкі (10, 11), крыжыкі (14—18), завушніца (19), скроневае кольца (20), пярсцёнкі (21—24) з каляровых металаў з **Ваўкавыска**.

землянкавых жытлаў (даўж. да 4,5 м, шыр. да 3,5 м, заглыбленых у мацярык на 0,1—1 м) і наземных жытлаў зрубнай канструкцыі з печамі-каменкамі ўсярэдзіне. Ускрыты падмуркі 3-нефавай, 6-стоўпнай царквы 12 ст. памерам 22×16 м. Па невядомых прычынах будаўніцтва царквы не было завершана (гл. *Ваўкавыскі храм*), выяўлены запасы плінфы, вапны, камянёўуставак з гладка зашліфаванымі паверхнямі. Знойдзены вырабы з жалеза і сталі (кавальска-слясарныя і дрэваапрацоўчыя інструменты, сельскагасп. прылады працы, прадметы ўзбраення і рыштунак конніка, бытавыя рэчы і інш.), сярэбраныя, бронзавыя і шкляныя ўпрыгожанні, вырабы з рогу і косці, а таксама арабскі дырхем, пражскія грошы, візантыйская манета і інш. У выніку раскопак устаноўлена, што паселішча тут узнікла на мяжы 10—11 ст. У пач. 12 ст. яно было ўмацавана абарончым валам і ператварылася ў вакольны горад. Жыццё тут спынілася ў 2-й пал. 14 ст.

В. (летапісны В о л к о в ы е с к) упамінаецца ў 1252 у Іпацьеўскім летапісе ў сувязі з уварваннем галіцка-валынскіх князёў Данілы і Васількі Раманавічаў у землі Верхняга Панямоння, якое належала літ. кн. Міндоўгу (В. і Слонімам валодаў яго сын Войшалк). У летапісе сказана: «Данило же и Василко поидоста к Новогороду. Данил же и Василко, брат его, разгадав со сыном брата си посла на Волковыеск, а сына на Услоним, а сам иде ко Здитову: и поимаша грады многы и возвратишася в домы». Паводле дагавора, заключанага каля 1254, Войшалк перадаў кн. Раману Данілавічу «Новгородок от Миндовга и от себе Вослоним и Волковыеск». Прызнаўшы сябе васалам вял. князя




Касцяныя пласцінкі-накладкі (1, 2, 10, 17), прадметы нявызначанага прызначэння (3, 7, 8, 24), грабяні (4, 6, 9), пласціна футарала для аднабаковага грэбеня (5), вухавёртка (11), крыжык (12), лыжачка (13), трубачкі для сукання нітак (14, 22), ручкі (15, 16, 23), гузікі (18, 19), муфта (20), свістулька-жалейка (21) з **Ваўкавыска.**



Касцяныя вырабы з раскопак **Ваўкавыска.**



Касцяны абразок 12 ст. з раскопак **Ваўкавыска**: правы і адваротны бакі.

літоўскага, Раман стаў княжыць у Навагрудку. У 1260-я г. ў летапісе паяўляецца імя ваўкавыскага кн. Глеба, з дачкою якога ажаніўся кн. Раман (ёсць меркаванне, што

цэнтрам асобнага феадальнага княства В. стаў значна раней). У 1256 войскі Глеба ваўкавыскага, Рамана навагародскага і Ізяслава свіслацкага ўдзельнічалі ў сумесным паходзе галіцка-валынскіх і польскіх войск на ятвягаў. У канцы 1250-х г. літ. князі Войшалк і Таўцівіл схапілі і, відаць, забілі кн. Рамана. У адказ Даніла Раманавіч зрабіў паход у Верхняе Панямонне, у 1266 ён захапіў В. і ўзяў у палон кн. Глеба, аднак трымаў яго «во чести». Чым закончыўся паход, летапіс не паведамляе, але верхнянёманскія гарады, у т. л. В., засталіся ў васальнай залежнасці ад Літвы. У 1277 войскі рус. кн. Мсціслава Данілавіча, Уладзіміра Васількавіча і Юрыя Львовіча «поидоша к Городну и бысть минувшим им Волковыеск далеча, сташа на «ночь». Апошні раз горад упамінаецца ў летапісе пад 1289, калі «...литовский князь Будикид и брат его Будивид даша князю Мьстиславу город свой Волковыеск, абы с ним мир держал». У канцы 13 ст. або ў самым пач. 14 ст. В. разам з інш. панямонскімі гарадамі ўвайшоў у склад ВКЛ. Паселішчы на Шведскай гары і Замчышчы былі закінуты, горад перамясціўся на берагі Ваўкавыі.



Прадметы ўзбраення і рыштунку воіна з **Ваўкавыска**: наканечнікі коп'яў (1—4), сякера (5), наканечнікі дроцікаў (6, 18), шпоры (7, 8, 12—14, 19—22), наканечнікі вожнаў мячоў (9, 10), фрагмент кальчугі (11), кісцяні (15, 16), перакрыжжа мяча (17).


Плітка з выявай фантастычнага звера. 12 — пач. 13 ст. Ваўкавыск.

*Літ.:* 424, 425, 492, 883а, 958, 1155а.
*Я. Г. Звяруга.*

**ВАЎКАВЫСКАЕ ГАРАДЗІШЧА,** на паўднёва-ўсх. ускраіне г. Ваўкавыска. За 500 м на У ад дзядзінца стараж. горада (гарадзішча Шведская гара), у нізінным забалочаным месцы. Вядома пад назвай Муравельнік. Пляцоўка авальная, памерам 120×60 м, умацавана валам выш. да 3 м, у паўд.-зах. частцы вала знаходзіўся ўезд. У паўд. частцы пляцоўкі ёсць упадзіна памерам 20×35 м глыб. 5—6 м (тут, відаць, была студня). Абследаваў у 1959 П. А. Рапапорт, раскопкі на пл. 1024 м² праводзіў у 1965—71 Я. Г. Звяруга. Культурны пласт ад 0,2—0,3 м да 1,8—2 м каля вала. Выяўлены рэшткі жытлаў паўзямлянкавага тыпу хутчэй за ўсё зрубнай канструкцыі, з печамі-каменкамі ўсярэдзіне.

Знойдзены наканечнік кап'я з пяром 3-вугольнай формы, наканечнікі стрэл (ланцэтападобны, двухшыпавы, ромбападобны, трохгранны з простым упорам і інш.), шпоры з шыпам у выглядзе круглага стрыжня, нажы, ключы, гліняныя і шыферныя прасліцы, вырабы з бронзы, косці, рога і каменю, ганчарная кераміка, косці свойскіх і дзікіх жывёл, птушак і рыб. Некаторыя рэчы маюць аналогіі ў старажытнасцях краін паўн. Еўропы.

Гарадзішча датуецца канцом 10—11 ст., належала ўсх. славянам.
*Літ.:* 424, 425, 958. *Я. Г. Звяруга.*

**ВАЎКАВЫСКІ ВАЕННА-ГІСТАРЫЧНЫ МУЗЕЙ** імя П. І. Баграціёна. Заснаваны ў 1935 на грамадскіх асновах як краязнаўчы музей, з 1.1.1940 дзяржаўны, з 1950 ваенна-гістарычны. Мае больш за 23,8 тыс. археал. прадметаў (1991). Асн. колькасць знаходак з раскопак Ваўкавыскага замчышча, Ваўкавыскага гарадзішча Муравельнік і Ваўкавыскага гарадзішча Шведская гара: вырабы з кованага, загартаванага і зварнога жалеза 10—13 ст. (сякеры, косы, нажніцы, замкі, цвікі, сашнікі), з косці 11—1-й пал. 14 ст. (грабяні, тронкі, накладкі, наканечнікі стрэл, засцежкі да адзення, шахматныя фігуркі, лыжачка), гліняны посуд 10—13 ст. з арнаментам і гасп. інвентар (міскі, гаршкі з клеймамі мясц. майстроў, грузілы, цацкі, прасліцы, галаснікі), калекцыя ўзбраення воіна і рыштунку каня (наканечнікі стрэл, коп'яў, зброя бліжняга бою, арбалетныя стрэлы, дэталі складных лукаў), ювелірныя вырабы (бранзалеты, пярсцёнкі, спражкі, медальёны, падвескі) і формы для вырабу крыжыкаў і падвесак 12—13 ст., знаходкі, што сведчаць пра заняткі насельніцтва земляробствам (абгарэлае зерне жыта і пшаніцы), жывёлагадоўляй, паляваннем. Экспануюцца бівень

маманта, знойдзены ў 1890 пры будаўніцтве чыг. вакзала, а таксама рэчы немясцовай вытворчасці (шкляныя бранзалеты і пацеркі, посуд, пісалы, фрагменты амфары, бурштын з Прыбалтыкі, шыферныя праслiцы з Оўруча, зах.-еўрап. пляскатае аконнае шкло). У нумізматычнай калекцыі 328 манет, у т. л. рымскі дынарый, паўгрош, паўтаракі, дынарыі, злотыя, капейкі, грывенікі, шастакі. *А. П. Чарныш.*

**ВАЎКАВЫСКІ ХРАМ,** помнік стараж. архітэктуры на тэр. вакольнага горада Ваўкавыска (Замчышча). Выяўлены падмурак царквы (па невядомых прычынах будаўніцтва храма было спынена). Калі меркаваць па падмурку і форме плана, будынак павінен быў уяўляць сабой 6-слуповую 3-нефавую царкву, падобную на Ніжнюю царкву ў Гродне. Памер прыблізна 22×16 м. Падкупальная прастора павінна была ствараццца 4 заходнімі (а не ўсходнімі) крыжападобнымі ў плане слупамі. Цэнтр. апсіда паўкруглая, бакавыя прамавугольныя. Да паўд.-зах. вугла будынка павінна прымыкаць квадратная ў плане вежа, у якой, верагодна, магла б знаходзіцца лесвіца на хоры. Месцазнаходжанне храма папярэдне вызначыў і адкапаў склад стараж. плінфы ў 1925 Ю. Ядкоўскі. Падмурак храма выявіў у 1956 В. Р. Тарасенка. Поўную зачыстку фундамента зрабіў у 1958 Г. І. Пех. Пазней храм вывучалі П. А. Рапапорт (1959), М. К. Каргер (1966), будаўнічы матэрыял царквы даследаваў Я. Г. Зверуга (1967). Побач з падмуркам знойдзены складзеная ў штабелі плінфа, вял. яма з вапнай (пл. больш за 30 м²), пласт вапны 1—1,2 м), шмат камянёў з адшліфаваным бокам, падрыхтаваных для будаўніцтва і пакладзеных у адзін рад. Выяўленая на Замчышчы плінфа некалькіх тыпаў: прамавугольная памерам 3,5—4,5×14,7—16,5×26—28,5 см, трапецападобная, з кругляватым вуглом, з паўкруглым кароткім канцом, на тарцах плінфаў ёсць рэльефныя знакі. Адны даследчыкі датуюць падмуркі 1-й пал. або сярэдзінай 12 ст., другія — 2-й пал. 12 ст.

*Літ.:* 425, 959, 1226. *А. А. Трусаў.*

**ВАЎЧУНЫ,** познамезалітычнае паселішча *яніслававіцкай культуры* каля в. Ваўчуны Слонімскага р-на. За 200 м на Пн ад вёскі, на левым беразе р. Іса (прыток р. Шчара). Памеры 150×40 м. Выш. над узроўнем вады 6—7 м. Выявіў у 1985 І. І. Падгарадзецкі, даследавала ў 1987—88 Н. В. Шаблюк. Культурны пласт 0,2 м. Знойдзены 6 нуклеусаў, вастрыё, ланцэтападобны наканечнік, прылада тыпу сякеры, праколкі, пласцінкі, нажы, канцавыя скрабкі з ножападобных пласцінак і адшчэпаў, шмат адшчэпаў сколаў з нуклеусаў. Датуецца 6—5-м тысячагоддзямі да н. э.

**ВЕВЯРЫЦА** (ад вавёрка), в е к ш а, старажытнаруская плацежная адзінка. Назву атрымала ад вавёрчынай шкуркі, якая была таварам-грошамі. У 10—11 ст. гэта манетны фрагмент (0,33—0,50 г) куфіцкага *дырхема* або заходнееўрап. *дэнарыя.* У 11 ст. складала $^1/_{100}$—$^1/_{150}$ *грыўні кун,* $^1/_5$—$^1/_8$ *нагаты,* $^1/_4$—$^1/_6$ куны, $^1/_2$—$^1/_3$ *разаны.* У 12—13 ст. устарэлы тэрмін, што азначаў крайне нязначную, мізэрную суму.

*Літ.:* 1585, 1640.




План падмурка **Ваўкавыскага храма.** Графічная рэканструкцыя П. А. Рапапорта.



Вастрыі (1, 2, 11), скрабкі (4, 5, 10, 12, 17), разцы (8, 9, 14, 15), трапецыя (3), скобля (13), нуклеус (16), пласціны са скошаным рэтушшу канцом (6, 7) з паселішча **Ваўчуны.**

**ВЕВЯРЭСК,** летапісны горад. Упамінаецца ў «Спісе рускіх гарадоў далёкіх і блізкіх» у канцы 14 ст. сярод гарадоў Вял. кн. Літоўскага. У даследчыкаў няма адзінага пункта гледжання наконт яго месцазнаходжання. Рус. гісторык М. М. Ціхаміраў адносіў яго да ліку загадкавых, археолаг В. В. Сядоў атаясамліваў летапісны В. з гарадзішчам каля в. Касцянёва Шчучынскага р-на і лічыў, што назва горада паходзіць ад гідроніма — назвы р. Вавёркі (левы прыток р. Лебяды, што ўпадае ў Нёман). Але малаверагодна, каб гідронім даў назву пасяленню, ад якога р. Вавёрка працякае за 16—18 км, а побач знаходзіцца р. Касцянёўка. Больш верагодна, што летапісны В. існаваў на месцы сучаснай в. Вавёрка Лідскага р-на, што размяшчаецца на р. Вавёрка Лідскага р-на. У дакументах 16 ст. ўпамінаецца пад назвай Гарадзішча.

*Літ.:* 1054, 1182. *С. А. Піваварчык.*

**ВЕЖА,** гл. ў арт. *Абарончыя збудаванні.*

**ВЕЙНА,** курганны могільнік каля в. Вейна Лагойскага р-на. За 1,2 км на ПнУ ад вёскі, недалёка ад могілак. 41 курган выш. 1—2,5 м, дыям. 6—10 м. У 1970 у разбураным кургане знойдзены касцяк, пры якім была жал. сякера 11 ст. У 1978 Г. В. Штыхаў даследаваў 2 насыпы. У адным выяўлены рэшткі трупапалажэння, у другім — 2 пахаванні па абрадах трупаспалення і трупапалажэння. Датуецца канцом 10—11 ст.

*Літ.:* 1353а.

**ВЕЙНА,** бескурганны могільнік бронзавага веку каля в. Вейна Магілёўскага р-на. Выяўлены ў 1930 пры распрацоўцы кар'ера. Абследаваў В. Р. Тарасенка. Пахаванні знаходзіліся на глыб. 2,5 м, у адным з іх знойдзена каменная свідраваная сякера, у другім — канцавы скрабок з рэтушаванымі краямі.

*Літ.:* 79, 1153.

**ВЕЛІКАСЕЛЬСКІ МАНЕТНЫ СКАРБ.** Знойдзены ў в. Вялікае Сяло Верхнядзвінскага р-на ў 1977. Вядомы 321 сярэбраная і білонная *манета.* В К Л: *паўгрошы* Аляксандра Ягелончыка [1492—1506], Жыгімонта I Старога [1506—48], Жыгімонта II Аўгуста [1548—72] — манетны двор Вільні. П о л ь ш ч а: паўгрошы Казіміра IV Ягелончыка [1447—92], Яна I Ольбрахта [1492—1501], Аляксандра Ягелончыка [1501—06], Жыгімонта I Старога — Кракаўскі манетны двор. Р э ч П а с п а л і т а я: рыжскі *грош* і *траяк*, літоўскі траяк С. Баторыя [1576—86], рыжскія і польскія *соліды*, *грошы польскія*, траякі і *шэсць грошаў* Зыгмунта III [1587—1632] — манетныя двары Рыгі, Мальбарка, Быдгошчы, Познані, Вільні. Р ы г а (вольны горад): соліды С. Баторыя — манетныя двары Рыгі, Гданьска. К у р л я н д ы я (герцагства): солід Фрыдрыха і Вільгельма [1596—1616] — манетны двор Мітава. Г д а н ь с к (вольны горад): солід С. Баторыя. П р у с і я: грош Жыгімонта I Старога — манетны двор Торн, грошы Альбрэхта Брандэнбургскага [1525—68] — манетны двор Кёнігсберга. В я л. к н. М а с к о ў с к а е: *дзенгі* і *капейкі* Івана IV Грознага [1533—47] — гра-

шовы двор Масквы. Расія (царства): капейкі Івана IV Грознага [1547—84], Фёдара Іванавіча [1584—98], Барыса Гадунова [1598—1605], Ілжэдзмітрыя I [1605—06], Васілія IV Шуйскага [1606—10], Уладзіслава Жыгімонтавіча [1610—12] — грашовыя двары Ноўгарада, Пскова, Масквы. Венгрыя (каралеўства): *дэнарыі* Фердынанда I [1526—64], Максіміляна II [1564—76], Рудольфа [1576—1612] — манетны двор Крэмніц. Тэўтонскі ордэн: солід Марціна Трухзеса [1477—89]. Германская імперыя: солід, паўгрош, паўбатцэн (1/2 *крэйцэра трайнога), драйпёлькеры* — манетныя двары Вісбадэн, Кёльн, Міндэн, Нортхайм, Свідніца. *Манеты фальшывыя:* падробкі венгерскага дэнарыя Фердынанда I і рыжскага соліда Зыгмунта III Вазы. Ухаваны ў канцы 1610-х г. Скарб захоўваецца ў Нумізматычным кабінеце БДУ. *В. Н. Рабцэвіч.*



Бронзавыя шпількі з бескурганнага могільніка-1 **Велямічы**.

**ВЕЛЬБА́РСКАЯ КУЛЬТУ́РА**, археал. культура плямён, якія з сярэдзіны 1 ст. н. э. насялялі тэр. паўн.-ўсх. Польшчы. Назву атрымала ад могільніка каля мяст. Вельбарк (цяпер Мальборк-Вельбарк) у Ніжнім Павісленні. Мае 2 стадыі развіцця: вельбарска-любавідскую (1—2 ст. н. э.) і вельбарска-цэцэльскую (2—4 ст. н. э.). На 2-й стадыі пачынаецца прасоўванне вельбарскіх плямён на ПдУ, у 2 ст. яны занялі тэр. на правабярэжжы Зах. Буга да р. Гарынь. Насельніцтва жыло на адкрытых селішчах, якія размяшчаліся па берагах рэк, у паглыбленых у мацярык або наземных слупавых 2-камерных жытлах з глінабітна-каркаснымі сценамі пл. 60—120 м² (трапляюцца навял. пабудовы да 20 м²). Выраблялa ляпныя прысадзістыя шыракагорлыя гаршкі з храпаватай паверхняй, а таксама міскі, кубкі, арнаментаваныя рэльефнымі геам. ўзорамі. Нешматлікая ганчарная кераміка прадстаўлена гаршкамі, міскамі, збанамі, вазамі разнастайных форм. Пахавальны абрад — трупапалажэнне і трупаспаленне на бескурганных могільніках. Рэшткі спаленых за межамі могільніка нябожчыкаў разам з попелам ссыпаліся ў ямкі глыб. да 1 м або змяшчаліся ў урны. У пахаваннях выяўлены рэчы, часам папсаваныя агнём; набор пахавальнага інвентару складаўся найчасцей з гліпянага гаршка, бронзавай фібулы і касцянога грэбеня. На могільніках трапляюцца ахвярныя ямкі, запоўненыя попелам, часам у іх знаходзяць камяні-валуны, абломкі гліпянага посуду, косці жывёл. Некаторыя тыпы ляпных гаршкоў маюць аналагі ў *пшэворскай культуры*, а ганчарных — у *чарняхоўскай культуры*. На думку многіх даследчыкаў, у фарміраванні В. к., акрамя карэннага насельніцтва, прынялі ўдзел усходнегерманскія плямёны готаў і гепідаў. На тэр. Беларусі вядомы могільнікі В. к. з трупаспаленнем: *Брэсцкі бескурганны могільнік, Дружба* (Брэсцкі р-н), *Велямічы* (Столінскі р-н), Вялічкавічы (Камянецкі р-н) і інш.

*Літ.:* 636, 1386. *В. С. Вяргей.*





Бронзавыя і жалезныя фібулы (зверху), гліняны посуд з бескурганнага могільніка-2 **Велямічы**.

**ВЕЛЯМІ́ЧЫ**, група бескурганных могільнікаў ранняга *жалезнага веку* і селішчаў *зарубінецкай культуры* каля в. Велямічы Столінскага р-на.

Бескурганны могільнік-1. За 4 км на У ад вёскі, ва ўрочышчы Турска, на высокім участку доўгай дзюны. У 1953—56 даследаваў 4680 м² Ю. В. Кухарэнка. Выяўлена 157 пахаванняў, з іх 11 належаць да 3—4 ст., 10 — старажытна-рускія курганы, астатнія пахаванні зарубінецкай культуры. Пахавальны абрад — трупаспаленне за межамі могільніка.

Перапаленыя косці ссыпаліся на дно круглых і авальных ям або ў гліняныя урны. У адным пахаванні выяўлены няспалены жаночы чэрап. Пахавальны інвентар размешчаны на Пн або ПнУ ад касцей: грубаляпныя і глянцаваныя гаршкі (арнаментаваны ўцісканнямі на плечуках або краях венчыка, налепленымі псеўдавушкамі, расчосамі і «жамчужнымі» ўцісканнямі), міскі, кубкі, стопкі, 77 бронзавых і жал. фібул (ранняя экземпляры з дроту сярэднелатэнскай схемы, большасць якіх зарубінецкага тыпу з трохвугольным шчытком на спінцы, астатнія — познaлатэнскай схемы), бронзавыя буйныя шпількі з кальцавой і пляската-спіральнай галоўкамі, арнаментаваныя трапецападобныя падвескі, пярсцёнкі.

Датуецца другой пал. 2 ст. да н. э.— 1 ст. н. э.

Бескурганны могільнік-2. За 1,5 км на З ад могільніка-1, ва ўрочышчы Пугачэнец, на невял. пясчаным узвышшы. У 1954, 1955 і 1957 даследавалі 1868 м² Кухарэнка, у 1960—62—6116 м² К. В. Каспарава. Выяўлены 2 пахаванні 3—4 ст., 116 зарубінецкай культуры.

У большасці пахаванняў рэшткі крэмацыі ссыпаліся на дно круглых і авальных ям, у адным — у глінянай урне, у другім яма выкладзена абломкамі глінянага посуду, 12 — кенатафы. Адно пахаванне абкладзена абломкамі глінянага посуду, што імітуе скрыневыя пахаванні паморскай культуры. Частка пахавальнага інвентару аналагічная рэчам могільніка-1, за выключэннем бронзавых пласціністых шпілек (2) і трапецападобнай падвескі, пяснога кручка, жал. званочка з кручком і інш. Сярод 89 фібул 63 сярэднелатэнскія зарубінецкага тыпу, астатнія — позналатэнскай схемы: адначленныя «воінскія» (19) і рамачныя (7).

Датуецца пач. 1 ст. да н. э.— 2 ст. н. э.

Бескурганны могільнік-3. За 2 км на ПдЗ ад могільніка-1. На хутары Дуброўка, на невял. узвышшы сярод балот. У 1957 Кухарэнка правёў невял. раскопкі. Знойдзены фрагменты пасудзін зарубінецкай культуры.

Селішча-1. На Пд ад могільніка-1, на пакатым схіле дзюны. Даследаваў Кухарэнка. Культурны пласт 0,8 м. Выяўлены фрагменты ляпных гаршкоў зарубінецкай культуры, косці жывёл, жал. шлакі.

Селішча-2. За 0,5 км на ПнУ ад могільніка-2. У 1953—57 даследавалі 600 м² Кухарэнка, у 1962—102 м² Каспарава. Культурны пласт 0,4—0,8 м. Выяўлены рэшткі 4 пабудоў і некалькі гасп. ям. Адна з пабудоў зрубная, няправільнай прамавугольнай формы, памерам 6×4 м, паглыбленая на 0,8 м у мацярык. У ёй выяўлены рэшткі глінабітнага вогнішча дыям. 1 м, абпаленыя камяні. Знойдзены косці жывёл, абломкі каменных зерняцёрак, фрагменты грубаляпнога і глянцаванага посуду, жал. нож, бронзавыя падвескі, кавалкі глінянай абмазкі.

Селішча-3. На У ад могільніка-2. Памер 0,5×0,2 км. У 1962 даследавала 276 м² Каспарава. Культурны пласт 0,3—0,4 м. Выяўлены рэшткі грубаляпных і глянцаваных пасудзін.



Раскопкі аднаго з пахаванняў бескурганнага могільніка-1 **Велямічы**.

Селішча-4. Побач з могільнікам-3, на схіле ўзвышша. У 1957 абследаваў Кухарэнка. Знойдзена невял. колькасць фрагментаў глінянага посуду.

*Літ.:* 501, 634, 637. *А. А. Егарэйчанка.*

**ВЕНЕ́ДЫ**, венеты, венды (лат. venedi, veneti), найстаражытнейшая назва славян. У першыя ст. н. э. сустракаецца ў працах Плінія Старэйшага, Тацыта, Пталамея і інш. Займалі тэр. ад Эльбы (Лабы) да Сейма і Акі і ад Прыкарпацця да Венедскага (Паморскага) заліва Балтыйскага мора. Магчыма, былі самастойнай групай слав. плямён. На рубяжы 7—8 ст. частка В., відаць, перасялілася на У і ўвайшла ў склад усх. славян.

**ВЕ́НЗАЎШЧЫНА**, каменныя могільнікі каля в. Вензаўшчына Шчучынскага р-на.

Могільнік-1. За 1 км на З ад вёскі, 50—80 м на Пн ад левага берага р. Скарбянка, на ўзвышшы ва ўрочышчы Ганчарыха. Магілы абкладзены камянямі (выш. 0,5—0,8 м) купалападобна ў 3—4 слоі. У галавах пахаванняў стаялі вял. камяні. Выявіў і даследаваў у 1889 Э. А. Вольтэр, даследаваў у 1889—90, 1892 В. А. Шукевіч. Раскапана 46 пахаванняў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне галавой на З (у адным — на У).




Спражка (1), бляшка ад галаўнога ўбору (2), бразготка (3), пярсцёнак (4), скроневае кольца (5) з каменнага могільніка-1 **Вензаўшчына**.

У слоі гумусу пад муроўкай знойдзены фрагменты керамічнага посуду, у некаторых — цэлыя гаршкі. Магільныя ямы глыб. 0,7—1,6 м, 4-вугольныя, падоўжаныя. Амаль кожны нябожчык з усіх бакоў абстаўлены дошкамі, верхняя дошка ў некаторых магілах прагарэлая ці амаль спаленая. У мужчынскіх пахаваннях знойдзены сякеры, коп'і, каляровыя пацеркі на скураных шнурах, жал. нажы ў скураных вышытых чахлах, крэсівы з крамянямі, паясныя кольцы, кавалкі тканін ад адзення, скураных рамянёў, спражкі, тачыльныя брускі, пярсцёнкі, бронзавыя бразготкі і ўпрыгожанні на скураных мяшэчках, шпоры, у жаночых — шматпацеркавыя скроневыя кольцы, бляшкі рознай формы ад галаўнога ўбору, рознакаляровыя шкляныя пацеркі, бронзавыя бразготкі, бранзалеты, пярсцёнкі, сімвалічныя ключы, кавалкі скуры і тканіны, нажы. У пахаваннях дзяўчынак — бляшкі да галаўнога ўбору, бранзалеты, пярсцёнкі. Некаторыя пахаванні без інвентару.

Датуецца канцом 10—12 ст.

Могільнік-2. За 80 м на ПдЗ ад вёскі, за 150 м ад р. Скарбянка, на ўскрайку і схілах пагорка выш. 8—10 м, каля дарогі Вензаўшчына — Матылі, ва ўрочышчы Барок. Адкрыла і даследавала 133 пахаванні ў 1986—89 А. В. Квяткоўская. Пахавальныя абрады — трупапалажэнне (132) і трупаспаленне (1).

На магілах з трупапалажэннем каменная муроўка памерам 1,8—3,1×1,1—1,2×0,25 м у адзін слой. Зрэдку ў галавах пахавання ставілі вял. неапрацаваныя камяні. Магілы размешчаны групамі па 2—3 і больш, магчыма, сямейныя пахаванні. Адзначаны выпадкі больш позніх пахаванняў на месцы папярэдніх. На магіле з трупаспаленнем каменная муроўка памерам 2,6×2,1×0,2—0,25 м; магільная яма глыб. 1,4 м, памерам 2×1,5 м, арыентавана ў на-

прамку Пн — Пд, запоўнена вугалем, у якім на глыб. каля 1 м ад паверхні знойдзены фрагменты ляпной керамікі чырвонага і жоўтага колераў з дамешкамі жарствы і раслін у гліне, арнаментаванай адбіткамі пальцаў і штампам. У магілах з трупапалажэннем пад каменнымі муроўкамі ў пласце гумусу знойдзены вуголле і фрагменты ляпнога і ганчарнага посуду, арнаментаванага двух- і шматраднымі хвалістымі лініямі і лініямі, рыфленнем. Побач з некаторымі магіламі выяўлены агнішчы. вугалі якіх насыпаны абапал галавы нябожчыка. У іншых пахаваннях вугалі выяўлены па перыметры магілы на шыр. 1,5—2 см. Магчыма, у магілах вакол нябожчыка клалі галінкі, падпальвалі іх, імітуючы абрад трупаспалення. Магільныя ямы авальныя, звужаныя каля доннай часткі, глыб. 0,75—1 м. У большасці пахаванняў выяўлены сляды дамавін (у адным знойдзена драўляная заклёпка ад труны). У некаторых пахаваннях дно магільных ям за межамі дамавін выкладзена камянямі дыям. 5—10 см. Нябожчыкі арыентаваны галавой на Пд і ПдЗ, зрэдку — на З. У мужчынскіх пахаваннях знойдзены фібула, нажы, тачыльныя бруські, крэсівы, жал. коп'і, сякеры, у пазнейшых пахаваннях — нажы, паясныя жал. кольцы, спражкі, кавалкі скураных паясоў, мяшэчкаў, кашалькоў, пярсцёнкі, грошы Вял. кн. Літоўскага, грош пражскі 15 ст. У жаночых пахаваннях — фібула, шматпацеркавыя скроневыя кольцы, сярэбраныя, бронзавыя і медныя пярсцёнкі, бронзавыя гузікі, завушніцы. Па знаходках і тыпах пахаванняў можна меркаваць, што разам з карэнным балцкім тут жыла нязначная частка мазавецкага насельніцтва (кераміка, камяні ў запаўненні магільных ям).

Датуецца канцом 10 — пач. 15 ст.

*Літ.:* 272, 1465, 1492.

*А. В. Квяткоўская.*

**ВЕ́НЗЕЛЬ** (польск. węzeł вузел), спалучэнне ў адной выяве складанапераплеценых пачатковых літар прозвішча, імя, тытулатуры, лічбаў, якое ўтварае узор. Шырока выкарыстоўваўся на манетах Рэчы Паспалітай і Расійскай імперыі 18 ст. Для В. расійскіх манет 1-й пал. 18 ст. характэрна 2-дольная і нават 4-дольная сіметрыя, у 2-й пал. 18—19 ст. В. робіцца асіметрычным і спрашчаецца за кошт памяншэння колькасці элементаў.

**ВЕРАГО́ДНАЯ РАЗЛІ́КОВАЯ КО́ЛЬКАСЦЬ АСО́БІН,** метад падліку колькасці асобін жывёл, рэшткі якіх выяўлены пры раскопках археал. помніка. Прапанаваны венгерскім вучоным Ш. Бекені (1969), з'яўляецца комплексным развіццём метаду вызначэння мінімальнай колькасці асобін. Сутнасць метаду заключаецца ў тым, што ўвесь астэалагічны матэрыял па кожнаму віду падзяляецца на 4 узроставыя групы: 1) маладыя; 2) не зусім дарослыя; 3) дарослыя; 4) сталыя і старыя. Рэшткі, падзеленыя па групах, дыферэнцыруюцца па памерах: у кожнай з груп вылучаюцца дробныя, сярэднія і буйныя. У выніку двайной дыферэнцыяцыі (па ўзросце і памерах) вылучаецца 12 груп касцей пэўнага віду жывёл. Потым у кожнай асобнай групе вызначаецца мінімальная колькасць асобін і атрыманыя даныя падсумоўваюцца па ўсіх групах. Гэты метад складаны і працаёмкі, патрабуе значных затрат часу, але дае найб. дакладнае ўяўленне пра абсалютную колькасць асобных відаў сельскагасп. і паляўнічых жывёл на археал. помніку, які даследуецца. Гэты метад выкарыстаны пры апрацоўцы астэалагічных калекцый з раскопак помнікаў жал. веку і сярэднявечча на Беларусі.

*Літ.:* 108. *Н. П. Александровіч.*

*Тв.:* Работы неманского отряда (разам з М. М. Чарняўскім) // Археологические открытия 1971 года. М., 1972; Адкуль бяруцца самародкі? (разам з С. Панізнікам) // Сучаснік-88. Мн., 1988. *М. М. Чарняўскі.*

**ВЕРАЦЯНО́,** прылада для скручвання ніткі ў прадзіве. Паявілася ў познім неаліце з узнікненнем прадзіва і ткацтва. У 10—13 ст. уяўляла сабой драўляны стрыжань даўж. 25 см з патончанымі канцамі. На ніжні канец В. надзявалі *праслiцу* для павелічэння яго вярчальнага



Агульны выгляд **Верхаўлянскага свяцілішча.**



Драўлянае **верацяно** 12—13 ст. з шыферным праслiцам з Мінскага замчышча.

руху. Вядомы знаходкі з раскопак у Полацку, Мінску, Віцебску, Брэсце, Слоніме, Давыд-Гарадку і інш. гарадах.

**ВЕРАЦІ́ЛА** Міхаіл Уладзіміравіч (н. 17.1.1937, в. Навасёлкі Ваўкавыскага р-на), беларускі краязнавец і калекцыянер. Удзельнічаў у археал. экспедыцыях Ін-та гісторыі АН БССР, выявіў і абследаваў шэраг стараж. помнікаў на Ваўкавышчыне: могільнік культуры шарападобных амфар, крэменездабыўныя шахты каля г. п. Краснасельскі, стараж.-слав. паселішча каля Навасёлак, раннехрысціянскія могільнікі, уніяцкую драўляную царкву на могільніку в. Калантаі і інш. Збірае калекцыі па нумізматыцы, філатэліі, у т. л. беларускіх марак, рэдкія кнігадрукі, мясц. фальклор, вывучае нар. медыцыну, выступае з краязнаўчымі нарысамі.

**ВЕ́РБКІ,** стаянкі *каменнага веку* каля в. Вербкі Бабруйскага р-на.

С т а я н к а - 1. За 300 м на ПдУ ад вёскі, на левым беразе р. Ваўчанка (правы прыток Бярэзіны). Памер 100×30 м. Выявіў і абследаваў у 1982 У. П. Ксяндзоў. Культурны пласт 0,15 м, залягаў на глыб. 0,2—0,3 м ад паверхні, пашкоджаны ворывам. Сабраны крамянёвыя скрабкі, пласціны і адшчэпы з рэтушшу і без яе, нуклеусы.

С т а я н к а - 2. За 1 км на У ад вёскі, на другой надпоймавай тэрасе правага берага р. Бярэзіна. Пл. 600 м². Выявіў у 1982 Ксяндзоў. Культурны пласт таўшч. 0,2 м, залягаў на глыб. 0,25—0,45 м у цёмна-жоўтым пяску. Знойдзены нуклеусы, пласціны, адшчэпы, прылады працы, зробленыя з цёмна-блакітнага крэменю высокай якасці. Тэрыторыя стаянкі знаходзіцца пад дачнымі ўчасткамі.

С т а я н к а - 3. За 1,3 км на ПдЗ

ад вёскі, на першай надпоплаўнай тэрасе правага берага р. Бярэзіна, на мысе. Пл. 400 м². Выявіў і даследаваў у 1985 Ксяндзоў. Культурны пласт пашкоджаны ворывам. Знойдзены адшчэпы, пласціны, нуклеусы з крэйдавага крэменю.

*Літ.:* 626. *У. П. Ксяндзоў.*

**ВЕРХАЎЛЯНСКАЕ СВЯЦІЛІШЧА,** помнік язычніцкага культу каля в. Верхаўляны Бераставіцкага р-на. За 150 м на ПдЗ ад вёскі, за поплавам, каля лесу, на ўзроўні першай надпоплаўнай тэрасы р. Шэпшы. Мясцовая назва Гарадзішча. Круглая ў плане пляцоўка дыям. каля 7 м абкружана ровам глыб. 0,5—1,2 м (на Пн больш за 2 м) і валам выш. 1,6—2,9 м. На ПнЗ у вале зроблены праход, злучаны з пляцоўкай земляной перамычкай. Выявіў у канцы 19 ст. Ф. В. Пакроўскі, абследаваў у 1973 Я. Г. Звяруга, даследаваў у 1986 Э. М. Зайкоўскі. Культурны пласт пляцоўкі 0,15—0,23 м. Выяўлены праслойка вугольчыкаў, фрагменты ганчарнай керамікі і крамяні са слядамі апрацоўкі. Культурны пласт у рове 0,4 м. Выбракоўка рову з камянёў выконвала рытуальныя функцыі (тут знаходзіліся «палаючыя ахвярнікі», куды кідалі мяса жывёл і рытуальна разбітыя пасудзіны). Знойдзены косці і зубы жывёл, слабаапрацаваныя крамяні, вуголле, фрагменты ганчарнай керамікі. Пад камянямі на мацерыку выяўлена вуголле і фрагменты керамікі 11—12 ст. Аналагічныя свяцілішчы выяўлены ў Паўн. Букавіне, на Смаленшчыне, у паморскіх славян.

*Літ.:* 164. *Э. М. Зайкоўскі.*



**Верхаўлянскае свяцілішча.** Рэканструкцыя Э. М. Зайкоўскага.

**ВЕРХНЕДНЯПРОЎСКАЯ КУЛЬТУРА,** археал. культура неалітычных плямён, якія ў канцы 5-га — 3-м тысячагоддзі да н. э. насялялі тэр. ўсх. Беларусі ў басейне Дняпра і яго левабярэжных прытокаў. Аснову гаспадаркі складалі паляванне, рыбалоўства і збіральніцтва, у канцы існавання культуры пачалі развівацца земляробства і жывёлагадоўля. Насельніцтва жыло на паселішчах, якія размяшчаліся на дзюнных узгорках поймы Дняпра, Сажа і іх прытокаў і на краі надпоймавых тэрас. Пл. паселішчаў ад 50 да 10 000 м². Жытлы былі драўляныя паўзямлянкавыя, заглыбленыя ў мацярык на 0,5 м, круглай або авальнай формы, пл. 8—12 м².



**Верхнедняпроўская культура:** венчыкі пасудзін, форма пасудзін, донцы пасудзін.

На познім этапе В. к. жытлы размяшчалі найчасцей па адной лініі ўздоўж найбольш высокай часткі тэрасы ці пясчанага астанца. У цэнтры жытлаў у невял. паглыбленнях у падлозе былі агнішчы адкрытага тыпу і ямы-паграбы глыб. да 1 м. Каля жытлаў на адлегласці да 10 м выяўлены агнішчы і ямы-сховішчы (для захавання ежы, паліва і інш.), а таксама месцы апрацоўкі крэменю і вырабу керамічнага посуду. На раннім этапе В. к. насельніцтва вырабляла таўстасценны вастрадонны посуд з прамымі сценкамі і прамым або ледзь адагнутым вонкі венчыкам з вял. колькасцю раслінных дамешкаў у гліне. Паверхню пасудзін часам упрыгожвалі гарызантальнымі радамі авальных ямкавых уціскання ў або адбіткаў буйнога грабеньчыка ці зусім не арнаментавалі. Пазней паявіліся шыракагорлыя пасудзіны выш. да 0,4 м, дыям. да 0,3 м, з вострым, радзей круглаватым дном, яны былі падоўжаныя, пукатыя з адагнутымі венчыкамі, радзей — невысокія прамасценныя ці круглаватыя выш. да 0,1—0,15 м, дыям. да 0,15 м. У гліну дабаўлялі пясок, дробны кварц, радзей раслінныя рэшткі. Унутраную і знешнюю паверхню часта загладжвалі зубчастым штампам. Характэрнай рысай В. к. з'яўляецца наяўнасць у некаторых пасудзін (магчыма, рытуальных) двухбаковай арнаментацыі, асабліва венчыкаў і дзішчаў. Асн. элементамі арнаменту былі адбіткі грабеньчатага штампа, разнастайныя ямкавыя ўмяціны (круглаватыя, авальныя, падоўжаныя, трохвугольныя, серпа-, ромбападобныя і інш.), лапчастыя наколы, нарэзкі, насечкі і правільныя ямкі з негатывамі на адвароце. З дапамогай усіх гэтых элементаў ствараліся дыяганальныя, гарызантальныя, шахматныя, зігзагападобныя, трохвугольныя кампазіцыі, якія ўскладняліся па меры развіцця культуры. На раннім этапе В. к. крамянёвы інвентар меў шмат архаічных рыс, якія засталіся з эпохі мезаліту. Для позняга этапу характэрны ромбападобныя і трохвугольныя наканечнікі стрэл і коп'яў, сякеры, цёслы, скрабкі на круглаватых адшчэпах, вуглавыя і нуклеусападобныя разцы, нажы, свярдзёлкі, вастрыі, часам трапляюцца мікраліты. Помнікі В. к. доўгі час былі аб'яднаны ў лакальныя варыянты *днепра-данецкай культуры* (гомельска-чарнігаўскі на другім этапе, рагачоўскі на трэцім этапе развіцця). Пасля даследаванняў І. М. Цюрынай і А. Г. Калечыц вылучана самастойная В. к. Мела адчувальныя ўплывы *дзяснінскай культуры* і неалітычных культур Волга-Окскага рэгіёна.

*Літ.:* 479, 847. *А. Г. Калечыц.*

**ВЕРХНЯВОЛЖСКАЯ КУЛЬТУРА,** археал. культура ранненеалітычных плямён, якія ў сярэдзіне 5-га — апошняй чвэрці 4-га тысяча-

годдзя да н. э. насялялі тэр. вярхоўяў Волгі і Волга-Окскага міжрэчча (Калінінская, Іванаўская, Яраслаўская, Маскоўская вобл. і некаторыя раёны суседніх абласцей). Вылучылі Дз. А. Крайноў і М. А. Хацінскі. Насельніцтва займалася пераважна рыбалоўствам, а таксама паляваннем і збіральніцтвам. Выраблялі крамянёвыя скрабкі на адшчэпах, мікраскрабкі на круглых адшчэпах, канцавыя скрабкі на пласцінках і пласцініставых адшчэпах, скрабкападобныя прылады на адшчэпах і скрэблы, наканечнікі стрэл постсвідэрскага тыпу на пласцінах і рамбічныя, разцы на рагу зламаных пласцінак, укладышавыя прылады з сячэнняў пласцін, касцяныя наканечнікі стрэл, гарпуны, нажы, кінжалы, праколкі, шылы, сякеры. Гліняны посуд быў разнавіднасцю пашыранай на У Еўропы грабеньчата-накольчатай керамікі. У гліну дадаваліся пясок і дробнапатоўчаны камень, зрэдку раслінныя і ракавінныя дамешкі. Пасудзіны мелі шырокае адкрытае горла, прамыя сценкі, вострае ці закругленае донца, венчык звычайна завостраны і скошаны ўнутр пад вострым вуглом да прамой сценкі (ёсць венчыкі з прамым арнаментаваным зрэзам). Таўшч. сценак 0,4—0,6 см, трапляюцца 0,8—1,3 см. На паверхню керамікі часам наносіліся расчосы. Асн. элементамі арнаменту былі тычкова-накольчаты, а таксама пракрэслены, разнастайны грабеньчаты (пункцірны, дробна-, сярэдне- і буйназубчасты) і ямкавы. Частка посуду арнаментавана псеўдашнуравым арнаментам, нанесеным адбіткамі адступаючай лапаткі ў выглядзе паралельных ліній. Грабеньчатыя ці зубчастыя элементы арнаменту дамінавалі ў арнаментацыі ранненеалітычнага часу, ямкавы элемент меў дапаможны характар. Арнаментыка керамікі В. к. ўяўляла сабой даволі складаныя матывы і ўзоры. Па шэрагу рысаў да керамікі В. к. блізкі найбольш ранні посуд *Бабінавіцкага тыпу помнікаў*, помнікаў у вярхоўях Друці і на З Смаленшчыны. Падабенства найперш выяўлена ў складзе гліны (у яе дадавалі сумесь пяску і жарствы), на паверхню пасудзін наносіліся расчосы, сустракаецца псеўдашнуравы арнамент і ўзоры з кропкавых і кроплепадобных узораў, арнамент з косых грабеньчатых адбіткаў паміж радамі ямак ці наколаў.

*Літ.:* 599. *Э. М. Зайкоўскі.*

**ВЕРХНЯДЗВІНСК** (да 25.12.1962 Д р ы с а, летапісныя назвы Дрысь, Д р и с а, Д р и з а), горад, цэнтр раёна, на правым беразе р. Зах. Дзвіна, пры ўпадзенні ў яе р. Дрыса. Упершыню ўпамінаецца ў «Хроніцы польскай, літоўскай, жамойцкай і ўсяе Русі» М. Стрыйкоўскага пад 1386, калі ў час міжусобнай вайны ў ВКЛ горад захапіў і спаліў Дрысенскі замак кн. Андрэй Полацкі. У 1503 у пагадненні паміж вял. князем ВКЛ Аляксандрам і вял. кн. маскоўскім Іванам III называецца асобнай валасцю, падпарадкаванай Полацку. У 1547 у Дрысе створана мытніца (таможня). У Лівонскую вайну 1558—83 стаў арэнай бітваў. У 1563 захоплены войскамі Івана IV Грознага і ўтрымліваўся імі да 1582. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) далучаны да Расіі. З 1776 павятовы горад Полацкай, з 1796 Беларускай, з 1802 Віцебскай губ. У 1781 зацверджаны герб горада («Пагоня» на залатым полі). Культурны пласт пашкоджаны, сярэдневяковыя ўмацаванні не захаваліся. У 1986—87 В. Я. Зайцава даследавала шурфоўкай 36 м². Знойдзены фрагменты ганчарных гаршкоў, шкляныя пацеркі, рэшткі кафлянай печы 17 ст., металічны дрот, шары з пятлёй (пячная арматура), гліняныя курыльныя трубкі, касцяныя гузікі і накладкі і інш.

*Літ.:* 157, 1075а, 1487. *В. Я. Зайцава.*


Чырвонагліняныя люлькі 18 ст. **Верхнядзвінск.**

**ВЕРХНЯЯ АЛБА**, археал. помнікі каля в. Верхняя Алба Жлобінскага р-на.

С т а я н к а ўсходнепалескага варыянта *днепра-данецкай культуры.* За 300 м на Пн ад могілак, на правым беразе Дняпра. Выявіў і даследаваў 42 м² у 1977 У. П. Ксяндзоў. Знойдзены крамянёвыя адшчэпы, пласціны, скрабкі, разцы, скоблі і фрагменты грабеньчата-накольчатай керамікі.

К у р г а н н ы  м о г і л ь н і к. За 0,5 км на У ад вёскі, за могілкамі ва ўрочышчы Курганне. 8 насыпаў выш. 1,5—2 м, дыям. 6—8 м. Абследавала ў 1983 Н. М. Дубіцкая.

**«ВЕСЦІ АКАДЭМІІ НАВУК БССР»,** навуковы часопіс у 7 серыях. Выдаецца з 1940 у Мінску (у 1942—46 не выходзіў), частка матэрыялаў на бел., частка на рус. мовах. Спачатку выдаваўся як агульны часопіс, з 1956 падзелены на серыі грамадскіх, біялагічных і фізіка-тэхнічных навук, з 1968 выходзіла 7 серый. Да 1969 перыядычнасць часопіса 4 разы на год, потым — 6. У серыі грамадскіх навук асвятляюцца і пытанні гісторыі і археалогіі, змяшчаюцца матэрыялы навук. даследаванняў бел. археолагаў, біяграфічныя артыкулы пра іх.

**ВЕТАЧКА,** курганныя могільнікі на ПдУ ад в. Ветачка Рагачоўскага р-на.


Упрыгожанні з курганнага могільніка радзімічаў **Ветачка.**

М о г і л ь н і к *радзімічаў.* За 1 км ад вёскі, каля дарогі на Гарадзец. 47 насыпаў выш. 1,5 м (10 выш. 1,5—5 м), дыям. 5—25 м. Вядомы з 1873. Даследавала ў 1963—65 Г. Ф. Салаўёва. Пахавальны аб-

рад — трупапалажэнне на грунце ў межах рытуальнага вогнішча, жаночыя галавой на З, мужчынскія — на З і У. Вакол многіх касцякоў попельна-вугальныя («вогненныя») кольцы.

У жаночых пахаваннях знойдзены нажы, сярпы, прасліцы, упрыгожанні: пярсцёнкападобныя несамкнутыя скроневыя кольцы, каралі з пацерак і бісеру, грыўня, бранзалеты, пярсцёнкі, язычковыя і пятлістыя прывескі, лунніцы, крыжыкі, рэшткі галаўнога вянка. У ранніх курганах пахавальны абрад трупаспаленне за межамі могільніка. Рэшткі крэмацыі звычайна ў насыпе, часам на рытуальным вогнішчы. Выяўлены часткі паяснога набору, касцяное дзяржанне нажа, кераміка гнёздаўскага тыпу.

У 1983—84 А. М. Плавінскі і В. Н. Рабцэвіч раскапалі 7 курганоў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне.

Мужчынскія касцякі арыентаваны галавой на ПнУ, жаночыя — на ПдЗ, адзін мужчынскі і адзін жаночы накрыты плахамі, 2 пахаванні парныя — жанчыны з дзецьмі. У жаночых пахаваннях знойдзены пацеркі (шарападобныя і біпірамідальныя сердалікавыя, шкляныя пазалочаныя і пасярэбраныя бочачкападобныя), бісер, бронзавыя трохдрацяная грыўня, 7-прамянёвыя скроневыя кольцы, зоркападобная фібула, пярсцёнкі, разнастайныя касцяныя прывескі-амулеты. У нагах пяцігадовай дзяўчынкі ляжалі загорнутыя ў бярэсту 8 арыгінальных скроневых кольцаў.

Датуецца 10—12 ст.

Могільнік *дрыгавічоў*. За 150 м ад вёскі, каля пясчанага кар'ера. 32 насыпы выш. 0,5—4 м, дыям. 5—16 м. Вядомы з 1873. Даследавалі ў 1963 Салаўёва, у 1983 Плавінскі і Рабцэвіч. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на попельнай падсыпцы галавой на З (жаночыя), З і У (мужчынскія).

У жаночых пахаваннях знойдзены трохпацеркавае скроневае кольца, сярэбраныя буйназярністыя і разнастайныя шкляныя пацеркі, пярсцёнкі, бразготкі, фрагменты ганчарнага посуду. Адзін моцна парушаны курган пахавання не меў.

Датуецца 11—12 ст.

*Літ.:* 889, 1046, 1113.

*А. М. Плавінскі, Г. Ф. Салаўёва.*

**ВЕЦЬ,** археал. помнікі каля в. Вець Быхаўскага р-на.

Стаянка-1 позняга неаліту. За 0,5 км на Пд ад вёскі, на левым беразе р. Гутлянка, пры ўпадзенні яе ў Дняпро, на пясчаным узвышшы, што выступае на 1—1,5 м над поймай. Памер 70×40 м. Зах. і цэнтр. часткі помніка разбураны ветравой эрозіяй. Выявіў у 1926 К. М. Палікарповіч, даследаваў 80 м² у 1959 І. І. Арцёменка. Культурны пласт 0,2—0,25 м, залягае ў падзолістым гарызонце глебы.

Знойдзены крамянёвыя скрабкі, клінападобныя сякеры, нажы, тронкавыя наканечнікі стрэл, рэтушор, каменны адбойнік, адшчэпы, фрагменты шыракагорлых пасудзін, арнаментаваных грабеньчатымі адбіткамі, неглыбокімі ямачнымі ўціскannямі і насечкамі. Пасудзіны вырабляліся ўручную стужачным спосабам з прамымі ці звужанымі ў верхняй частцы сценкамі і канічным дном.

Стаянка-2 позняга неаліту і бронзавага веку. За 400 м на Пд ад стаянкі-1, на беразе воз. Станавое, на пясчаным узвышшы, якое выступае на 1,6 м над поймай. Выявіў у 1926 Палікарповіч, даследаваў 120 м² у 1954 Арцёменка. Выяўлена больш за 100 фрагментаў ганчарнай керамікі 12—13 ст. Культурны пласт 0,3—0,35 м.



Скроневыя кольцы з курганнага могільніка радзімічаў **Ветачка**.

Выяўлены ромба- і лістападобныя наканечнікі стрэл, клінападобныя сякеры, пласціны з рэтушшу, канцавыя скрабкі, фрагменты пасудзін вял. памераў з канічным дном, пукатым тулавам і адагнутым вонкі венчыкам, упрыгожаных глыбокімі цыліндрычнымі ямкамі, грабеньчатымі адбіткамі ў выглядзе дыяганальных паясоў, вуглавых зігзагаў, малюнкам у «елачку». Сустракаецца кераміка з лапчастым арнаментам, зробленым канцом палачкі, абматанай ніткай ці вяровачкай. Выяўлена невял. колькасць фрагментаў пасудзін бронзавага веку, упрыгожаных кароткімі наразнымі паглыбленнямі і адбіткамі перавітай вяровачкі.

Знаходкі сведчаць пра кантакты мясц. неалітычных і прышлых сярэднедняпроўскіх плямён у перыяд рассялення апошніх на тэр. Верхняга Падняпроўя ў канцы 3 — пач. 2-га тысячагоддзя да н. э.

Курганны могільнік часоў Кіеўскай Русі. На паўн. ускраіне вёскі, на левым беразе старыцы Дняпра. 11 круглаватых у плане паўсферычных насыпаў. Вядомы з 1873, у 1964 часткова даследаваў Г. І. Іонэ. Знойдзены жаночыя ўпрыгожанні радзімічаў (бронзавыя бранзалеты, скроневыя кольцы).

Побач з могільнікам знаходзіцца селішча 6—8 ст.

*Літ.:* 76, 865, 1046.

*А. Г. Калечыц, В. Ф. Капыцін.*

**ВЁСКА,** паселішча, жыхары якога займаюцца пераважна сельскай гаспадаркай. Назва паходзіць ад стараж.-слав. слова «весь». Пры першабытнарадавых адносінах В. былі практычна ўсе паселішчы аселых земляробаў і жывёлаводаў. Пасля аддзялення рамяства ад сельскай гаспадаркі з агульнай масы паселішчаў пачалі вылучацца рамесна-гандл. і адм.-палітычныя цэнтры, якія з цягам часу ператвараліся ў гарады. Гэтыя працэсы на тэр. Беларусі прасочваюцца ў археал. матэрыялах з 8—9 ст. З гэтага часу В. становяцца спецыфічнымі паселішчамі, якія паводле функцый і складу насельніцтва процістаяць усім іншым населеным пунктам. Археал. даследаванні дазваляюць прасачыць развіццё В. ад узнікнення да 14—15 ст., у перыяд, які слаба адлюстраваны ў інш. гіст. крыніцах. У канцы 1-га тысячагоддзя н. э. В., як і земляробчыя паселішчы папярэдняга часу, размяшчаліся на поймавых узвышшах і берагавых схілах, найчасцей не вышэй як 10 м над узроўнем ракі ці возера. Скопішчы паселішчаў перамяжоўваліся вял. незаселенымі прасторамі міжрэчных узвышшаў, водападзелаў, лясоў. Памеры і форма іх былі разнастайныя, але пераважалі невялікія і сярэднія В. пл. да 3 га, з бессістэмнай забудовай. У 8—9 ст. паяўляюцца асобныя сялянскія двары-сядзібы, што адлюстроўвала пераход да суседскай абшчыны. Распад радавой абшчыны суправаджаўся гасп. прагрэсам: пашыралася саха, на змену ляднаму (падсечнаму) земляробству прыйшлі лясная аблога і пачатак папарнай сістэмы, замест паўзямлянак пачалі будаваць наземныя хаты, а паглыбленыя ў грунт пабудовы выкарыстоўваліся толькі ў гасп. мэтах. На 2-м этапе развіцця В. (канец 10—11 ст.— 2-я пал. 13 ст.) іх колькасць павялічылася больш як у 2 разы. Рассяленне стала больш шчыльным, але заставалася яшчэ шмат незаселеных земляў, у т. л. ўсе міжрэчныя ўзвышшы. Захавалася большасць ранейшых В., але павялічыліся іх памеры, вырасла колькасць сярэдніх і маладворных В., часам недаўгавечных, бо адбывалася інтэнсіўнае адасабленне паселішчаў, якія складаліся з невял. сямей. Захоўвалася і бессістэмная забудова, але часцей стала трапляцца В. з рэгулярнай лінейнай планіроўкай. Пашыраліся папарная сістэма земляробства і карыстанне плугам, развівалася рамяство, асабліва апрацоўка металаў і ювелірная справа. Знаходкі шматлікіх упрыгожанняў і інш. рэчаў матэрыяльнай культуры на археал. помніках (паселішчах і пахаваннях) сведчаць пра даволі высокі ўзровень жыцця сялян, якія ў большасці выпадкаў заставаліся асабіста, а месцамі і пазямельна свабоднымі. З 11 ст. ў В. пачало пранікаць хрысціянства.

якое ў 13 ст. поўнасцю выцесніла язычніцтва. Даволі шырокае распаўсюджанне з 11—12 ст. невял. умацаваных рэзідэнцый-замкаў сведчыла пра пашырэнне феад. землеўладання. У канцы 13—14 ст. пачалося асваенне міжрэчных узвышшаў і водападзелаў, на якіх раслі яшчэ некранутыя лясы. Драбнаконтурнасць палеткаў і інш. угоддзяў дазваляла будаваць толькі маладворныя В., якія і сталі пануючымі на некалькі стагоддзяў. За кошт такога перасялення паменшылася колькасць В. у рачных далінах. Змена структуры сялянскага рассялення была выклікана з аднаго боку гасп. прагрэсам — масавым распаўсюджаннем плуга і трохполля, з другога — складваннем феад. гаспадаркі.

*Літ.:* 326, 450, 582, 969, 974.

*Я. Р. Рыер.*

**ВІД,** асноўная гіст. ўстойлівая структурная і класіфікацыйная (таксанамічная) адзінка ў сістэме жывых арганізмаў; генетычна адзіная сукупнасць папуляцый асобін, якія здольны да скрыжавання з утварэннем пладавітага патомства, маюць агульныя морфафізіялагічныя прыкметы і тып узаемаадносін з абіятычным і біятычным асяроддзем, насяляюць пэўную тэрыторыю (арэал) і аддзелены ад інш. такіх груп асобін практычна поўнай адсутнасцю паміж імі гібрыдаў. Агульнапрынятае вызначэнне В. пакуль што не распрацавана. У цяперашні час апісана больш за 1 млн. В., у т. л. на Беларусі больш за 20 тыс. В. жывёл і каля 3,5 тыс. В. раслін. Паводле разнастайных параметраў (экалагічных, гістарычных, эвалюцыйных, прыкладных і інш.) адрозніваюцца В. выкапнёвыя, зніклыя, рэліктавыя, шкодныя, сінантропныя і інш. Існуюць аб'ектыўныя цяжкасці ў параўнанні і гамалагізацыі сучасных В. з выкапнёвымі, абумоўленыя недастатковасцю выкапнёвага матэрыялу і складанасцю вызначэння межаў існавання В. ў часе. Для абазначэння паняцця, эквівалентнага В., у *палеанталогіі* прапанаваны тэрмін «фратрыя». Да зніклых у гіст. час на тэр. Беларусі В. жывёл, рэшткі якіх трапляюцца ў археал. знаходках, адносяцца: лясны конь — тарпан, першабытны бык — тур, расамаха, зубр. Да выкапнёвых В. верхнепалеалітычнага фауністычнага комплексу належаць мамант, шарсцісты насарог, вялікарогі алень, бізон і інш.

*Літ.:* 374. *Н. П. Александровіч.*

**ВІДЗІБОР,** курганны могільнік драўлян каля в. Відзібор Столінскага р-на. За 2,5 км на ПнЗ ад вёскі, на ўзвышшы каля балота, ва ўрочышчы Гуркі. У 1950-я г. было каля 40 насыпаў выш. 0,3—0,7 м, дыям. 4—7 м (усе разараны). Вакол некаторых курганоў прасочваліся кальцавыя раўкі. 13 курганоў у 1956 даследаваў Ю. В. Кухарэнка. Пахавальны абрад — трупаспаленне. Нябожчыкі былі пакладзены галавой на З, у некаторых выпадках — на ПдЗ, на вугальна-попельнай праслойцы.

Пахавальны інвентар — сердалікавая прызматычная пацерка, жал. нож, бронзавыя пярсцёнак і спражка з жал. язычком, ганчарныя гладкасценныя гаршкі, арнаментаваныя хвалістымі лініямі і кругавым рыфленнем. У насыпах курганоў знойдзены фрагменты ляпнога посуду зарубінецкай і пражскай культур.

Датуецца 11 ст.

*Літ.:* 633. *В. С. Вяргей.*

**ВІКІНГІ,** скандынавы — удзельнікі марскіх заваёўніцкіх паходаў у канцы 8 — сярэдзіне 11 ст. ў краіны Еўропы. На Русі іх называлі *варагамі.*

**ВІЛЕЙСКІ ГІСТОРЫКА-КРАЯЗНАЎЧЫ МУЗЕЙ.** Заснаваны ў 1982, адкрыты ў г. Вілейка ў 1985. Мае каля 5,3 тыс. археал. прадметаў (1991): каменныя (крамянёвыя) прылады працы і іх загатоўкі, фрагменты керамікі, жал. крэсіва са стаянкі *Сосенка,* паселішчаў Малмыгі і *Кастыкі,* сякера-клін з лінзападобным сячэннем (2—1-е тысячагоддзі да н. э.), знойдзеная каля в. Стахоўцы Мядзельскага р-на, касцяное долата (2-е тысячагоддзе да н. э.), 8 каменных сякер калунападобнага (трохвугольнага) тыпу (3—2-е тысячагоддзі да н. э.) з розных месцаў раёна. У нумізматычнай калекцыі каля 2 тыс. прадметаў, у т. л. Касцяневіцкі манетны скарб 1974.

**ВІЛЕНСКАЯ АРХЕАЛАГІЧНАЯ КАМІСІЯ,** установа, якая фіксавала і даследавала помнікі старажытнасці на тэр. Беларусі і Літвы. Існавала ў 1855—65. Створана па ініцыятыве Я. П. Тышкевіча пры *Віленскім музеі старажытнасцей.* У склад камісіі ўваходзілі Я. П. Тышкевіч (старшыня), М. Балінскі (віцэ-старшыня), А. К. Кіркор, І. Крашэўскі, Т. Нарбут, А. А. Плятар, У. Сыракомля, К. П. Тышкевіч і інш. Камісія збірала матэрыялы па гісторыі краю, звесткі пра ўладальнікаў археал. матэрыялаў, наладжвала археал. экспедыцыі, абмеркаванні вынікаў іх працы, заслухоўвала даклады і рэфераты па краязнаўству. Выпускала «Записки Виленской археологической комиссии», краязнаўчыя працы. Закрыта паводле загаду генерал-губернатара М. М. Мураўёва.

*Літ.:* 513. *Г. А. Каханоўскі.*

**ВІЛЕНСКІ МАНЕТНЫ ДВОР,** галоўны цэнтр манетнай вытворчасці Вял. кн. Літоўскага. Існаваў з канца 15 ст. да 30.12.1667. Выпускаў *дэнарыі, солiды, паўгрошы, грошы,* 6-грашовікі, *талеры, дукаты, партугалы.* Да вытворчасці В. м. д. адносяць сярэбраныя дэнарыі Вітаўта [1392—1430]. Пры Аляксандры Ягелончыку [1492—1506] выпускаў сярэбраныя манеты наміналам ад дэнарыя да гроша, пры Жыгімонце І Старым [1506—48] — паўгрошы і грошы пры Жыгімонце II Аўгусце [1548—72] быў агульнадзярж. манетным дваром Рэчы Паспалітай, выраблаў манеты ад дэнарыя да партугала, пры С. Баторыі [1576—86] — наміналы ад дэнарыя да дуката, пры Зыгмунце III Вазе [1587—1632] — ад солiда да партугала, пры Уладзіславе IV [1632—48] — партугалы, пры Яне II Казіміры [1648—68] — ад солiда да дуката. Да Люблінскай уніі 1569 манеты выпускаліся з выявай «Пагоні» па асобнай стапе. У часы С. Баторыя з уніфікацыяй грашовай вытворчасці Рэчы Паспалітай на манеце адціскаліся гербы Вял. кн. Літоўскага і Каралеўства Польскага, а пры Яне II Казіміры як своеасаблівае праяўленне сепаратысцкіх тэндэнцый кіруючых колаў ВКЛ — толькі «Пагоня». Манеты В. м. д. вылучаюцца па гербах падскарбіяў вял. літоўскіх або па знаках арандатараў двара. Медныя солiды 1664—66 падобныя на солiды 1665—66 *Брэсцкага манетнага двара,* асобныя выпускі не адрозніваюцца нават дробнымі прыкметамі. Вядомы *жэтоны лічыльныя* сярэдзіны 16 — пач. 17 ст. са знакамі падскарбіяў літоўскіх, што працавалі на В. м. д.

*Літ.:* 1667. *І. І. Сінчук.*

**ВІЛЕНСКІ МУЗЕЙ СТАРАЖЫТНАСЦЕЙ.** Заснаваны 29.4.1855 Я. П. *Тышкевічам,* адкрыты 1.12. 1856 у будынку бібліятэкі Віленскага ун-та. У сувязі з паўстаннем 1863—64 паводле загаду генерал-губернатара М. М. Мураўёва музей быў зачынены і падвергнуты «рэвізіі». Шмат каштоўных экспанатаў было адпраўлена ў Маскву. У знак пратэсту кіраўнік В. м. с. Я. П. Тышкевіч зняў з сябе гэтыя паўнамоцтвы і выехаў з Вільні. Пад націскам грамадскасці частка экспанатаў вярнулася ў музей. Рэканструяваны і зрусіфікаваны В. м. с. праіснаваў да пач. 1-й сусветнай вайны. Аддзелы: археалогія, этнаграфія, мастацтва, зброя, мінералогія, арніталогія. Свае калекцыі музею перадалі Я. П. і К. П. Тышкевічы, У. Сыракомля, А. К. Кіркор, Т. У. Нарбут, М. І. Балінскі, Ф. К. Багушэвіч, І. Р. Кулакоўскі, К. А. Буйніцкі, А. А. Плятар і інш. У канцы 19 ст. ў фондах было больш за 12 тыс. экспанатаў, у т. л. стараж. рукапісы, інкунабулы, рэдкія выданні 15—18 ст., багатыя калекцыі зброі, слуцкіх паясоў, габеленаў, графікі, скульптуры, партрэтаў магнацкіх родаў (Радзівілаў, Тышкевічаў, Хадкевічаў, Храптовічаў, Сапегаў), гербаў гарадоў, манет, этрускіх ваз, японскіх, італьян-

скіх і кітайскіх тканін, фарфору, бронзавых вырабаў. Пераважная большасць матэрыялаў была з Беларусі: археал. знаходкі, каменныя ідалы са Случчыны, граматы 12—14 ст. аб сувязях полацкіх князёў з ганзейскімі гарадамі, кальчуга са славянскімі надпісамі з Оршы (экспануецца ў Маскоўскім гіст. музеі), ядры з Мінскага замка, пячатка з Крэва, стараж. рэчы з Гродзенскай Каложскай царквы, карэліцкія габелены і інш. У фондах музея ўпершыню выкарыстаны метад захавання прадметаў па аднароднасці матэрыялаў, з якіх зроблены знаходкі: метал, дрэва, шкло, тканіны, косць, камень, папера і інш. Пры В. м. с. дзейнічала *Віленская археалагічная камісія.* Большасць экспанатаў зберагаецца ў гістарычна-этнагр. музеі АН Літвы і Рэспубліканскай мастацкай галерэі Літвы, у Музеі бурштыну (г. Паланга), Дзярж. гіст. музеі (Масква), Народным музеі ў Варшаве.

*Літ.:* 198а, 508, 513.

*Г. А. Каханоўскі.*

**«ВИЛЕНСКИЙ ВЕСТНИК»** («Kurier Wileński»), палітычная і літаратурная газета, орган Паўн.-Зах. краю. Выдавалася ў 1841—1915 у Вільні, з кастрычніка 1915 да 1916 у Гомелі. У 1841—65 афіцыйныя матэрыялы друкаваліся на рус. і польскай мовах, неафіцыйныя — пераважна на польскай, з 1865 толькі на рус. мове. «В. в.» — прадаўжэнне газ. «Літоўскі веснік». У 1859—65 рэдактар газеты — даследчык гісторыі, літаратуры і фальклору Паўн.-Зах. краю А. К. Кіркор; у газеце супрацоўнічалі бел. і польскія пісьменнікі, этнографы, гісторыкі. У ёй друкаваліся матэрыялы пра археал. даследаванні, у т. л. падрабязнае апісанне каменных прылад працы са збораў Шукінаса на Віленшчыне і Віцебшчыне (Кіркор, Л. Т. Нарбут; 1864, № 147), справаздача У. З. Завітневіча з раскопак курганоў на Прыпяці ў Мазырскім пав. з вывадамі аб этнічнай прыналежнасці насельніцтва таго часу (1898, № 64, 187), аналіз археал. абследаванняў басейна Віліі (Ф. В. Пакроўскі; 1894, № 24), пра доследы курганоў у Віцебскім, Лепельскім і Веліжскім пав. (М. Ф. Кусцінскі; 1860, № 12), агляд археал. абследаванняў М. П. Авенарыуса на Гродзеншчыне, Э. А. Вольтэра на Вілейшчыне, Завітневіча наМіншчыне ў 1887—88 (1889, № 121), рэцэнзіі на працы А. М. Семянтоўскага «Беларускія старажытнасці» (1890, № 26), Пакроўскага «Археалагічная карта Гродзенскай губерні» (1895, № 110) і інш. Сістэматычна друкавала справаздачы з раскопак гарадзішчаў, замчышчаў, селішчаў, археал. экспедыцый, звесткі Віленскай археал. камісіі пра арганізацыю і работу археал. музея і бібліятэкі ў Вільні (1857, № 15, 47; 1858, № 1—3, 21, 40, 48, 68, 69; 1859, № 19; 1860, № 5, 6, 12, 16, 47, 64, 73, 90, 91; 1861, № 8, 14, 22, 23, 32, 34, 39, 40, 65, 90, 98, 99, 101; 1862, № 6, 15, 16, 23, 24, 31, 39, 55, 65, 72, 81, 90; 1863, № 6, 19, 36, 84; 1864, № 16, 25, 30, 46, 132, 147; 1865, № 26; 1869, № 30). Газета рэгулярна друкавала пратаколы падрыхтоўчага к-та, матэрыялы *Археалагічнага з'езда дзевятага* (1892, № 5, 6, 10, 28, 41, 42, 46, 51, 72, 85, 96, 97, 129, 143, 179, 184, 244, 249; 1893, № 9, 10, 16, 17, 19, 29, 64, 162). З мая 1863 віленскім генерал-губернатарам М. Мураўёвым газета ператворана ў рэакцыйны ўрадавы орган.

*Літ.:* 753.

*У. Дз. Будзько, А. І. Мальдзіс.*

**ВІРЫЧОЎ**, археал. помнікі каля в. Вірычоў Рагачоўскага р-на.

С т а я н к а - 1 ранняга *мезаліту.* За 2 км на У ад вёскі, на мысе правага берага р. Друць пры ўпадзенні ў яе р. Добрыца. Выш. над межанным узроўнем Друці 7—8 м. Адкрыў у 1980 і даследаваў 82 м² у 1982, 1986—88 В. Ф. Капыцін. Культурны пласт на глыб. 0,2—0,6 м, часткова разбураны.

Знойдзены канцавыя скрабкі з кароткіх пласцін і адшчэпаў (некаторыя са скошаным лязом і камфортнай рэтушшу па краі), скрабкі двайныя і з «шыпам» на лязе, разцы рэтушныя і на зломе загатоўкі, вырабы з выемкай, вастрыі, праколкі, рэтушоры і сякучыя прылады, пласціны-ўкладышы, шмат адшчэпаў і пласцін з дробнай рэтушшу па краі.

С т а я н к а - 2 эпохі *неаліту.* За 0,5 км ад вёскі, на мысе левага берага р. Добрыца. Даследаваў 15 м² у 1987—88 Капыцін. Культурны пласт на глыб. 0,2—0,5 м.

Знойдзены прадукты расшчаплення крэменю, скрабкі з адшчэпаў, праколкі, фрагменты керамікі светла-жоўтага колеру, упрыгожаныя адбіткамі дробназубчастага штампа і ямачнымі ўцісканнямі пад венчыкам.

Г а р а д з і ш ч а ранняга *жалезнага веку.* Пры ўпадзенні р. Добрыца ў р. Друць. Пляцоўка авальная, памерам 30×40 м. Вядома з 1873, даследаваў у 1976 А. Г. Мітрафанаў. З боку поля і ПдЗ умацавана валам і ровам, часткова разбураным у час вайны. Знойдзены рэчы мілаградскай і зарубінецкай культур.

*Літ.:* 578.

*В. Ф. Капыцін.*

**ВІСЛЯНСКІ ЦЫКЛ**, гл. ў арт. *Яніслаўіцкая культура.*

**«ВИТЕБСКИЕ ГУБЕРНСКИЕ ВЕДОМОСТИ»**, афіцыйная газета, якая выдавалася губернскім праўленнем у Віцебску з 1838 да 23.12. 1917 на рус. мове. Мела афіцыйны і неафіцыйны (з 1845) аддзелы. Афіцыйны змяшчаў пастановы і распараджэнні цэнтр. і мясц. улад. Неафіцыйны меў значэнне самастойнай газеты, з 1901 выдаваўся асобна, асвятляў мясц. жыццё, падзеі ў краіне і за мяжой, друкаваў літаратурныя творы, даследаванні па гісторыі, этнаграфіі і фальклоры. Сярод публікацый ёсць матэрыялы пра вынікі археал. даследаванняў, выяўленыя помнікі, манетныя скарбы, краязнаўчую работу, пра музей Віцебскага губ. статыстычнага к-та і яго выстаўкі і інш., у т. л. арт. А. Семянтоўскага пра знаходкі каменнага веку на Віцебшчыне (1887, № 13), калекцыі каменных прылад з раскопак М. Ф. Кусцінскім курганнага могільніка ў Лепельскім пав. (1865, № 35), справаздачы пра раскопкі курганных старажытнасцей Л. Ю. Лазарэвічам-Шапялевічам у Гарадоцкім, Невельскім і Себежскім пав. (1900, № 14, 153, 154), арт. К. А. Гаворскага пра вынікі археал. даследаванняў каля в. Рудня і Бяздзедавічы, каменныя крыжы і гарадзішчы наваколля Полацка (1852, № 32; 1860, № 11, 12). У сваіх працах І. Гарбачэўскі даў падлік курганоў і гарадзішчаў Полацкага і Віцебскага пав. (1884, № 72, 73). Е. Р. Раманаў зрабіў вывады аб этнічнай прыналежнасці курганоў Віцебшчыны, назваў новыя помнікі (1881, № 70; 1892, № 18). Друкаваліся



Агульны выгляд стаянкі-1 Вірычоў.

ся звесткі пра стараж. манетныя скарбы (1894, студзень; 1904, № 173; 1909, № 166, 179, 184), пра арганізацыю музейнай і краязнаўчай справы ў губерні, сувязь Віцебскага музея з вядомымі археолагамі краіны (1865, № 25), характарыстыка археал. экспанатаў музея (1911, № 80), гарадской выстаўкі 1871 (1871, № 16—19). *У. Дз. Будзько.*

**ВІТУ́НІЦКІ КАМЕ́ННЫ КРЫЖ.** За 2 км ад в. Вітунічы Докшыцкага р-на, за 200 м ад дарогі Вітунічы — Сасновая, у лесе, ва ўрочышчы Каралёў Стан, на месцы познасярэдневяковага могільніка. Высечаны з мясц. граніту шэрага колеру. Плоскасці роўныя, шурпатыя. Перавезены ў *Музей валуноў* Ін-та геахіміі і геафізікі АН Беларусі (Мінск). Выш. крыжа 1,85 м, даўж. ў папярочніку 1,1 м, ніжняя частка патоўшчаная. На фасадным баку схематычная выява чалавека з каронай на галаве, са шчытом і мячом. Пад ёй літары RSB і 2 кругі адзін у адным. Па краях лопасцей высечаны крыжыкі. Паводле падання, крыж пастаўлены на месцы каралеўскага стана Стэфана Баторыя ў час аднаго з яго паходаў у час Лівонскай вайны 1558—83. Ускосна гэта пацвярджаецца назвай урочышча і выбітымі літарамі, калі іх расшыфраваць як «Rex Stefan Batory» — кароль Стэфан Баторый.

*Літ.:* 1501. *Л. У. Дучыц.*

**ВІ́ЦЕБСК,** горад абл. падпарадкавання, цэнтр Віцебскай вобл., на р. Зах. Дзвіна пры ўпадзенні ў яе рэк Віцьба і Лучоса. Вузел чыг. і шашэйшых дарог, рачны порт, аэрапорт.

Археал. раскопкі ў В. праводзілі ў 1895—96 А. П. Сапуноў, у 1964 Л. В. Аляксееў, у 1960—70-я г. Г. В. Штыхаў, у 1960-я М. К. Каргер, у 1976—90 В. М. Ляўко, у 1977—79, 1983 М. А. Ткачоў, у 1977—83, 1988 Л. У. Калядзінскі, у 1981—88 Т. С. Бубенька, у 1982 П. А. Рапапорт, у 1982 А. А. Трусаў, у 1986 І. М. Чарняўскі, у 1986 І. А. Цішкін. Археал. даследаваннямі ўстаноўлена, што першыя пасяленні чалавека на тэр. горада адносяцца да каменнага веку. На Верхнім замку знойдзены каменныя сякеры тыпу «пальштаб» і сякера са свідраванай адтулінай, ножападобная крамянёвая пласціна і рэшткі вытворчасці — крамянёвыя адшчэпы. Знаходкі адносяцца да неаліту або ранняга перыяду бронзавага веку. У раннім жал. веку за 100—150 м на У ад вусця Віцьбы на гары размяшчалася гарадзішча *днепра-дзвінскай культуры.* У пісьмовых крыніцах 17—19 ст. гэтае месца вядома як Замкавая гара (Ламіха). У 6—8 ст. на гары, а таксама на мысе ў сутоках рэк Віцьба і Зах. Дзвіна і тэр. Ніжняга замка размяшчалася селішча *банцараўскай культуры,* на якім знойдзены рэшткі ляпнога посуду, гліняныя грузікі і праслiца. У 9—10 ст. на тэр. сучаснага В. існавала некалькі крывіцкіх паселішчаў. На мяжы 10—11 ст. у выніку аб'яднання паасобных паселішчаў складваўся горад. У 11 ст. ён меў дзядзінец пл. 0,7 га, які размяшчаўся на Замкавай гары, і пасад, што ўключаў тэрыторыю вакол дзядзінца і на правым беразе Віцьбы (гл. *Віцебскі пасад*). Пасля 1101 В. стаў цэнтрам удзельнага княства, напэўна, у гэты час на дзядзінцы пачалося будаўніцтва царквы св. Міхаіла як патранальнага храма віцебскіх князёў (гл. *Віцебская царква Архангела Міхаіла*). У 1-й пал. 12 ст. на Замкавай гары і паселішчы на мысе ўзведзены новыя абарончыя ўмацаванні. У выніку сфарміраваўся новы расшыраны дзядзінец пл. каля 4 га, з Пд да яго прымыкаў вакольны горад пл. каля 6 га, а на Пн ад дзядзінца, за р. Віцьбай, у 12—13 ст. склалася перадграддзе. На Пд за паўд. рукавом р. Віцьба існаваў гар. некропаль. Аснову ўнутранай планіроўкі В. складалі вулічныя маставыя, падпарадкаваныя рэльефу мясцовасці (выяўлены ў час раскопак на дзядзінцы, вакольным горадзе і перадграддзі). Маставыя шыр. каля 2 м насцілалі з дошак або аполкаў на лагі, абапал вуліц размяшчаліся сядзібы гараджан (уключалі жылыя і гасп. пабудовы). У час раскопак на Верхнім і Ніжнім замках ускрыта больш за 170 пабудоў. Матэрыяльная культура гараджан мела агульны ўсх.-



Да арт. **Віцебск.** Касцяныя шахматы 13—14 ст. з Віцебскіх Верхняга і Ніжняга замкаў.



Касцяныя дзяржанні нажоў і арнаментаваныя пласціны 13 ст. з **Віцебска.**



Падсвечнікі 17—19 ст. з **Віцебска.**

слав. характар і ўключала вырабы з дрэва, косці, каменю, жалеза, каляровых металаў, шкла, гліны і скуры. Сярод знаходак — берасцяная грамата 13—14 ст., прасліцы з надпісамі «Марьино» і «Бабино», залаты пярсцёнак, частка сахі, шахматы і шашкі і інш. Да сярэдзіны 14 ст. дзядзінец і вакольны горад былі абнесены мураванымі сценамі з вежамі і атрымалі назвы Верхні і Ніжні замкі (гл. *Віцебскі Верхні замак, Віцебскі Ніжні замак*), перадграддзе да канца 16 ст. наз. Вялікі пасад Завіцебны, пазней — Астрог, Узгорскі замак (гл. *Віцебскі Узгорскі замак*). Сельскія паселішчы вакол замкаў ператварыліся ў слабоды (гл. *Віцебская Задунайская слабада, Віцебская Заручайская слабада, Віцебская Задзвінская слабада, Віцебская Узгорская слабада*). Планіроўка горада ў гэты час заставалася больш ці менш устойлівай, матэрыяльная культура пры захаванні агульных усх.-слав. рыс не пазбегла зах.-еўрап. ўплыву, што праявілася ў паяўленні *рамачна-каркасных канструкцый*, вялікапамернай цэглы, керамічнай дахоўкі, кафлі і інш. У канцы 16—17 ст. ў планіроўцы В. адбыліся прыкметныя змены, выкліканыя паяўленнем новага цэнтра — рыначнай плошчы і ратушы на Узгорскім замку, што было звязана з атрыманнем горадам магдэбургскага права. На фарміраванне матэрыяльнай культуры вял. ўплыў зрабіла цэхавая вытворчасць. Па сваім абліччы большасць вырабаў гэтага часу блізкая да рэчаў традыцыйнай вытворчасці беларусаў 19 ст. Амаль да гэтай пары В. захоўваў і сваю планіроўку.

В. (летапісны Видбеск, Видебск, Витьбеск, Витепеск) паводле падання, зафіксаванага ў Віцебскім летапісе 18 ст. (рукапіс Міхаіла Панцырнага 1760), засн. вял. княгіняй Вольгай у 974. Займаў важнае месца на *шляху «з варагаў у грэкі»*, таму да 1021 належаў вял. князям кіеўскім. У 1021 вял. кіеўскі кн. Яраслаў Мудры перадаў В. полацкаму кн. Брачыславу Ізяславічу. Пасля смерці полацкага кн. Усяслава Брачыславіча (1101) В. стаў цэнтрам удзельнага Віцебскага княства і перайшоў да аднаго з сыноў Усяслава, напэўна, Святаславу. У 1130—40-я г. горад належаў Васільку Святаславічу, пазней (у 1162, 1167, 1175) у В. княжыў яго сын Усяслаў. У 1165—70-я г. В. належаў смаленскаму кн. Давыду Расціславічу. У пач. 1180-х г. назіраецца збліжэнне В. з Чарнігавам і Ноўгарадам. У 1180 віцебскім князем стаў Брачыслаў Васількавіч, які разам з ноўгарадцамі, палачанамі і чарнігаўцамі ўдзельнічаў у паходзе на Друцк. У 1196 недалёка ад В. адбылася бітва паміж аб'яднанымі сіламі полацкіх і чарнігаўскіх князёў з аднаго боку і смаленскімі князямі з другога, якая скончылася перамогай полацкіх князёў, што вярнулі сабе віцебскае княжанне. У 1209 адбываецца збліжэнне В. з уладзіміра-суздальскімі князямі. Васілька Брачыславіч аддаў сваю дачку замуж за кн. Усяслава Юр'евіча па мянушцы «Вялікае гняздо». У 1220—30-я г. В., відаць, належаў полацкаму кн. Брачыславу, які ў 1239 аддаў сваю дачку Аляксандру (паводле В. М. Тацішчава — Праскоўю) замуж за Аляксандра Неўскага, які ў 1242 наведаў В., дзе гадаваўся яго сын. Верагодна, віцябчане разам з палачанамі і наўгародцамі ўдзельнічалі ў 1240 у Неўскай бітве і ў 1242 у Лядовым пабоішчы. У 1262 упамінаецца віцебскі кн. Канстанцін, які разам з наўгародцамі прымаў удзел у паходзе на Юр'еў, захоплены крыжакамі, у 1265 — кн. Ізяслаў, які знаходзіўся ў залежнасці ад літ. князёў Гердзеня, пазней Войшалка. У канцы 13 — пач. 14 ст. ў В. княжыў Міхаіл Канстанцінавіч, з 1318 — Яраслаў Васілевіч, які аддаў сваю дачку Марыю замуж за крэўскага кн. (пазней вял. князя ВКЛ) Альгерда Гедымінавіча. У 1320 пасля смерці кн. Яраслава В.



«Чарцёж» **Віцебска** 1664.




Да арт. **Віцебск.** План Віцебскіх замкаў, 1665. З чарцяжа А. П. Сапунова паводле матэрыялаў Міністэрства замежных спраў.

адышоў у спадчыну Марыі Яраслаўне, віцебскім князем стаў яе муж, вял. князь ВКЛ Альгерд. З гэтага часу В. у складзе ВКЛ. У 1341 віцябчане на чале з Альгердам дапамагалі Пскову ў барацьбе супраць крыжакоў. У 1345 віцебскім князем стаў Андрэй Альгердавіч (Андрэй Полацкі). Пазней другая жонка Альгерда цвярская княжна Ульяна атрымала В. у пажыццёвае ўладанне (да 1393). У 1370-я г. горадам валодаў іх сын (пазней вял. князь ВКЛ, кароль Польшчы) Ягайла. У канцы 14 — 1-й пал. 15 ст. В. стаў цэнтрам міжусобнай барацьбы літ. князёў. У 1393 на кароткі час яго захапіў кн. Свідрыгайла, але хутка быў выгнаны Вітаўтам. У 1430-я г. ўзнавілася жорсткая барацьба паміж Свідрыгайлам, якога падтрымлівалі віцябчане, і Вітаўтам, горад пераходзіў з рук у рукі, быў разбураны. Пазней праваслаўныя гараджане і феадалы прынялі ўдзел у паўстанні Свідрыгайлы (1432—39), накіраваным супраць узвышэння літ. і польскай арыстакратыі. У прывілеі 1441 В. названы сярод 15 найбуйнейшых гарадоў ВКЛ, у 1444 устаўной граматай Казіміра IV В. атрымаў самакіраванне няпоўнае. З 1506 горад стаў цэнтрам Віцебскага ваяводства. У час шматлікіх руска-літоўскіх і Лівонскай войнаў (1516, 1519, 1534, 1536, 1562, 1568) горад падвяргаўся аблогам, быў спалены і спустошаны. У 1597 В. атрымаў поўнае магдэбургскае права. Пасля Віцебскага паўстання 1623 і забойства уніяцкага архіепіскапа І. Кунцэвіча горад пазбаўлены магдэбургскага права, прывілеяў на беспадатковы гандаль, падпарадкаваны ўладзе ваяводы. У час руска-польскай вайны 1654—67 пасля доўгай аблогі 22.11.1654 горад быў узяты рус. войскам і 13 гадоў знаходзіўся ў складзе Рус. дзяржавы. У час Паўночнай вайны 1700—21 у 1708 В. амаль поўнасцю спалены рус. войскамі, бо віцябчане падтрымлівалі караля Рэчы Паспалітай С. Ляшчынскага, прыхільніка саюзу са Швецыяй. У 1772 В. уключаны ў склад Расійскай імперыі.

*Літ.*: 41, 46, 668, 960, 1197, 1275, 1285, 1346. *Л. У. Калядзінскі.*

**ВІЦЕБСКАЕ АДДЗЯЛЕННЕ МАСКОЎСКАГА АРХЕАЛАГІЧНАГА ІНСТЫТУТА,** навучальная ўстанова, якая існавала ў 1911—22 у Віцебску. Адкрыта па ініцыятыве Віцебскай вучонай архіўнай камісіі. Мела факультэты: археалагічны, археаграфічны, гісторыі мастацтва (з 1917). Тэрмін навучання 3 гады, з 1917 — 4 гады, разлічаны на слухачоў з вышэйшай адукацыяй, але сярод студэнтаў пераважалі выпускнікі сярэдніх школ. У 1911 на 1-ы курс прынята каля 90 чал., у 1918—19 навучалася 428 чал. Выкладалі археолаг В. А. Гарадцоў, мастацтвазнавец А. І. Успенскі, гісторыкі Б. Р. Брэжга (з 1918 заг. аддзялення), А. П. Сапуноў (курс «Старажытнасці Паўночна-Заходняга краю»), У. М. Перцаў, этнограф У. М. Дабравольскі, М. І. Успенскі і інш. У пач. 1919 ін-ту перададзены бібліятэка (3700 тамоў), музей і гістар. архіў (314 спраў) б. Віцебскай вучонай архіўнай камісіі, частка бібліятэкі (2 тыс. тамоў) б. Віцебскай езуіцкай калегіі. У распараджэнні аддзялення быў Віцебскі губернскі архіў (1,5 млн. спраў).

*Літ.*: 1324. *М. І. Камінскі.*

**ВІЦЕБСКАЯ ВУЧОНАЯ АРХІЎНАЯ КАМІСІЯ,** таварыства, якое займалася збіраннем гісторыка-архіўных, фальклорна-этнагр. і археал. матэрыялаў у Віцебскай губ. Заснавана 31.5(13.6).1909 па ініцыятыве М. Ц. Багародзіцкага, існавала да 1918 на ахвяраванні з Бешанковіч, Невеля, Полацка, Янавіч і інш. Старшыні камісіі: У. К. Арсеньеў, з 1910 У. А. Кадыгробаў, потым К. І. Ціхаміраў і інш. Члены камісіі: М. Я. Нікіфароўскі, А. П. Сапуноў, В. П. Федаровіч, І. І. Далгоў, Дз. С. Леанардаў, М. В. Анцаў і інш. Ганаровыя члены: Б. І. Эпімах-Шыпіла, В. В. Ключэўскі, Я. Ф. Карскі, П. П. Сямёнаў-Цян-Шанскі, В. І. Сразнеўскі і інш. Пры камісіі працавалі бібліятэка, музей, архіў. Адбываўся абмен навук. выданнямі і матэрыяламі са 105 навук. ўстановамі Масквы, Львова, Кіева, Мінусінска, Табольска, Тулы, Кракава і інш. Камісія падтрымлівала сувязі з археал. т-вамі Вільні, Масквы, Ноўгарада, Пецярбурга. Члены камісіі запрашаліся на археал. з'езды, на пасяджэннях камісіі прачытаны лекцыі пра побыт бел. вёскі (У. К. Стукаліч), пра Беларусь і беларусаў (Сапуноў), пра Ф. Скарыну (Далгоў) і інш. Па ініцыятыве камісіі адкрыта *Віцебскае аддзяленне Маскоўскага археалагічнага інстытута*, выдадзены зб. «Працы Віцебскай вучонай архіўнай камісіі» (1910) і «Полоцко-Витебская старина» (1911—16), вялася работа па складанні гіст.-геаграфічнага слоўніка Віцебскай губ., 8.1.1917 утворана Віцебскае гіст.-археал. т-ва. У Віцебску было арганізавана некалькі выставак матэрыялаў археал. раскопак. У 1918 усе матэрыялы камісіі перададзены Віцебскаму аддзяленню Маскоўскага археал. ін-та.

*Літ.*: 442, 507а, 1324. *Г. А. Каханоўскі.*

**ВІЦЕБСКАЯ ЗАДЗВІНСКАЯ СЛАБАДА,** тэрыторыя на правым беразе Зах. Дзвіны, насупраць Верхняга і Ніжняга замкаў; пасад Віцебска ў 16—18 ст. У паўн. частцы Задзвіння ў 10—13 ст. існавала паселішча (паводле пісьмовых крыніц вядомы і курганныя могільнікі), на аснове якога сфарміравалася частка гар. пасада — Ільіншчына. З 15 ст. тут вядома царква святога Ільі, з 17 ст.— драўляная Пакроўская царква. Пазней паўн. частка Задзвіння наз. Слабада Валатоўка (1714), Слабадскі пасад (1761); жыхары займаліся суднабудаваннем. У паўд. частцы Задзвіння паводле крыніц 16 ст. вядома паселішча Русь, або Пасад Рускі (магчыма, месца жыхарства гандляроў, якія прыбывалі з рус. зямель). Тут жа сяліліся ганчары, пра што сведчыць назва вул. Ганчарнай.

*Літ.*: 668, 1346.

**ВІЦЕБСКАЯ ЗАДУНАЙСКАЯ СЛАБАДА,** неўмацаванае паселішча на левым беразе Віцьбы, у месцы ўпадзення ў яе ручая Дунай, на У ад Ніжняга і Узгорскага замкаў. Пл. 5 га. Уключала Кстоўскую гару (паўн. ўчастак) і ўласна Задунаўе. Стараж. паселішча 12—13 ст. пл. да 1 га знаходзілася на паўд. ускраіне слабады каля Ніжняга замка, у 14—17 ст. яно развівалася ў паўн. і ўсх. напрамках. Забудова спачатку свабодная, у 16—17 ст. больш шчыльная і рэгулярная. Паселішча ў Задунайскай слабадзе было сельскім, доўгі час развівалася самастойна, на Кстоўскай гары ў стараж.-рус. перыяд знаходзіўся курганны могільнік, у 17 ст.— Мікалаеўская (Завіцьбенская) царква, у Задунайскай слабадзе — капліца і царква Іаана Прадцечы (Пакроўская). Археалагічныя раскопкі на тэр. слабады праводзілі ў 1977 М. А. Ткачоў (шурфоўка, выяўлены матэрыялы 13—17 ст.), у 1980—81, 1986 В. М. Ляўко (раскапана больш за 600 м²). Культурны пласт на Кстоўскай гары 0,4—1,2 м, выяўлены рэшткі жытлаў 14—15 ст., прадметы матэрыяльнай культуры 14—18 ст., у Задунайскай слабадзе культурны пласт 0,5—2 м, на паўд. участку выяўлены фрагменты драўляных пабудоў 17 ст. са слядамі пажару. У 1986 на скрыжаванні вул. Даватара і прасп. Фрунзе выяўлена водаадводная сістэма 17 ст. (драўляныя трубы і забрукаваны вадасцёк, які вёў да ракі). У ніжніх напластаваннях выяўлены сляды жытлаў, агнішчаў 12 ст., вырабы з жалеза, шкла, керамікі 12—13 ст. і 14—18 ст.

*Літ.*: 46, 200а, 668, 1346. *В. М. Ляўко.*

**ВІЦЕБСКАЯ ЗАРУЧАЙСКАЯ СЛАБАДА,** неўмацаванае паселішча 12—13 ст. на Пд і ПдУ ад Ніжняга замка. З З абмежавана Зах. Дзвіной, з Пн — безназоўным ручаём, з У — ручаём Дунай, з Пд — сучасны вул. Газеты «Праўда». Пл. паселішча каля 5 га. На ўсх. узвышаным участку знаходзіўся курганны некропаль (валатоўкі). Тут жа ў 14 ст. кн. Ульяна пабудавала каменную царкву Святога Духа. У гэты час тут склалася вулічная сетка. Археалагічныя рас-

копкі праводзіла ў 1981, 1986 В. М. Ляўко. У зах. частцы слабады даследавана 150 м². Культурны пласт 0,5—2 м, магутнасць яго павялічваецца на Пд ад Ніжняга замка. У ніжніх напластаваннях выяўлены матэрыялы 12—13 ст. (кераміка, шыферныя прасліцы), у пласце 14—16 ст.— рэшткі гліна-бітных печаў, манеты, вырабы з металу, шкла, керамікі. Вывучаны рэшткі падвальнай часткі Святадухаўскай царквы з манастыром на пл. 1500 м². Устаноўлена, што манастырскі комплекс будаваўся ў некалькі этапаў, у 17—19 ст. развіваўся ў паўд. і ўсх. напрамках. Культурны пласт 0,4 м, утрымлівае рэшткі драўляных канструкцый 17 ст., вырабы з шкла, керамікі, металу 17—18 ст. У царкоўных нефах ускрыты рэшткі пахаванняў, выяўлены фрэскі і кафля 17—19 ст.

*Літ.:* 200а, 668, 669, 1346.

*В. М. Ляўко.*

**ВІЦЕБСКАЯ РАТУША,** помнік архітэктуры 16—18 ст. у Віцебску. Размешчана ў цэнтры горада. Даследаванні на тэр. ратушы праводзіла ў сярэдзіне 1980-х г. В. М. Ляўко, архіт.-археал. назіранні ў ходзе рамонтных работ помніка — І. М. Чарняўскі і І. А. Цішкін. Першая драўляная ратуша была пабудавана ў Віцебску пасля надання яму магдэбургскага права ў 1597, цагляная — у 1775 (захавалася да нашага часу). На «Чарцяжы места Віцебска» (1664) змешчана першая графічная выява віцебскай ратушы. Двухпавярховы прамавугольны ў плане будынак быў накрыты 4-схільным дахам і завершаны 8-граннай назіральнай вышкай з купалам і шпілем. Гал. фасад ратушы арыентаваны на забрукаваную гандл. плошчу, абкружаную з трох бакоў жыллёва-гандл. пабудовамі. Да бакавых фасадаў ратушы прымыкалі будынкі гасцінага двара. У падвале ратушы 18 ст. выяўлены рэшткі муроўкі 2-й пал. 17 ст., якая, верагодна, з'яўляецца фрагментам гал. фасада будынка, паказанага на «Чарцяжы». У муроўцы выкарыстана цэгла-пальчатка памерам 28,5—29×13,5—14,5×5—5,5 см, а таксама невял. камяні. Ёсць падставы меркаваць, што мураванымі ў будынку былі сцены паўпадвала і 1-га паверха. Другі паверх ратушы і яе завяршэнне складзены з дрэва, што характэрна для архітэктуры Беларусі 17 і пазнейшых стагоддзяў. На фрагменце фасада помніка 17 ст. захаваліся аконныя праёмы паўпадвала шыр. 0,98 і 0,85 м, аконны (1,03 м) і дзвярны (0,7 м) праёмы 1-га паверха; дзвярны праём шыр. 1,25 м вёў у памяшканне паўпадвала. Верхні абрэз аконных праёмаў паўпадвала знаходзіўся на выш. 1,5—1,7 м ад паверхні брукоўкі гандл. плошчы. Каля ратушы знойдзены абломкі і цэлыя экземпляры зялёнапаліванай кафлі, з якой маглі быць выкладзены печы будынка. У 18 ст. яны аблямоўваліся «галандскай» кафляй з выявамі расліннага характару ў складанай геам. рамцы. У малюнку кафлі выкарыстаны ультрамарынавы, зялёны і карычневы колеры.

*І. М. Чарняўскі.*

**ВІЦЕБСКАЯ УЗГОРСКАЯ СЛАБАДА,** пасад Віцебска ў 17—18 ст., тэрыторыя паміж р. Зах. Дзвіна і Віцьба, на Пн ад *Віцебскага Узгорскага замка.* У 16 ст. быў забудаваны толькі ўчастак паміж Ярковым ярам, Ніжнім замкам і «вялікай дарогай вулічнай», на астатняй тэр. размяшчаліся гар. зямельныя ўчасткі. У 17 ст. забудавана ўся слабада, сфарміраваліся вуліцы Узгорская, Падтычынская, завулак Багаслоўскі, на Вострай-Спаскай гары (Вострая магіла) пабудавана Спаская царква (не захавалася). Паводле інвентароў 1641 і 1664, у слабадзе жылі майстры па апрацоўцы жалеза і шкляры. Археал. раскопкі на тэр. Узгорскай слабады праводзіла ў 1979, 1980—82, 1984 В. М. Ляўко. Культурны пласт да 1—1,3 м. Знойдзены вырабы з гліны, жалеза, шкла 17—18 ст.

*Літ.:* 200а, 668.

*В. М. Ляўко.*

**ВІЦЕБСКАЯ ЦАРКВА АРХАНГЕЛА МІХАІЛА.** Пабудавана на дзядзінцы стараж. Віцебска. Віцебскі летапіс прыпісвае ўзвядзенне храма княгіні Вользе. На самай справе царква магла быць пабудавана на мяжы 11—12 ст. як патранальны храм у час вылучэння Віцебскай зямлі ў самастойнае княства. Тэхніка муроўкі мяшаная са схаваным радам плінфы таўшч. 3,7 см і часанага вапняку таўшч. 3—3,5 см. Храм меў драўляныя вокны з дыскападобнымі шыбамі зеленаватага колеру. Алтарная частка аздоблена залачонаю мазаікай. Падлога была вымашчана керамічнымі пліткамі стрэлападобнай і трохвугольнай формы. Стрэлападобныя пліткі мелі даўж. верхняй грані 11,5—12 см, шыр. 7,5, у вузкай частцы 4 см, трохвугольныя — даўж. бакоў 7,5 см. Таўшч. плітак — 2,5—3 см, бакі скошаны, ніжняя грань на 2—4 см карацейшая за верхнюю. Пліткі пакрыты палівай ярка-жоўтага (свінцова-крэменязёмнае шкло з вокісам жалеза ў якасці фарбавальніка) і травяніста-зялёнага (вокіс медзі і невял. дамешак



Віцебская ратуша.

вокісу волава) колераў, мацаваліся на рошчыне, якая рабілася з вапны і пяску ў роўных прапорцыях. Кампазіцыйна малюнак падлогі ўяўляў сабой чаргаванне жоўтых і зялёных палос у абрамленні зубцоў такога ж колеру. Дах храма быў закрыты алавянымі лістамі. Шкло з царквы зах.-еўрапейскага, смальта візантыйскага паходжання. Знешняе аблічча храма, магчыма, мела рысы, уласцівыя чарнігаўскай школе дойлідства, якая ў 12 ст. зрабіла пэўны ўплыў на фарміраванне архітэктурнай школы Полацкай зямлі. Рэшткі муроўкі царквы прасочаны ў час назіранняў за землянымі работамі ў 1964. У час раскопак 1977—88 знойдзены смальта, плінфа, пліткі ад падлогі і інш. Царква была разбурана ў час пажару 1335 або ў час аблогі *Віцебскага Верхняга замка* вял. кн. літоўскім Вітаўтам у 1396, пазней яна аднаўлялася, але ў інш. тэхніцы і з інш. матэрыялу. На плане Віцебска 1664 царква паказана як драўляная. Гэта двухкамерны зруб, адна з камер, меншая памерамі, з'яўлялася алтарнай часткай. Храм быў узведзены ў домабудаўнічай традыцыі хата + + сенцы. Вокны прамавугольныя. Гал. фасад быў упрыгожаны невял. адкрытай галерэяй з балясавай агароджай. Будынак завяршала чацверыковая шатровая вежачка.

*Літ.*: 46, 960. *Л. У. Калядзінскі.*

**ВІЦЕБСКАЯ ЦАРКВА ЗВЕСТАВАННЯ,** Віцебская Благавешчанская царква, помнік стараж. архітэктуры. Пабудавана ў 1-й пал.— сярэдзіне 12 ст. ў Віцебску на левым беразе р. Зах. Дзвіна, на тэр. Ніжняга замка. Уяўляла сабой выцягнутую 3-нефавую 6-слуповую пабудову, якая мела з У адну паўкруглую апсіду і 2 паўкруглыя нішы ў тоўшчы ўсх. сцяны. Шыр. храма 11,1 м, даўж. без апсіды 18,2 м, з апсідай — 21 м. У зах. сцяне (таўшч. каля 1,5 м) размяшчалася лесвіца, якая вяла на хоры. Таўшч. астатніх сцен каля 1,1 м. Фасады і інтэр'еры царквы былі ўпрыгожаны плоскімі аднаступеньчатымі лапаткамі (шыр. вонкавых лапатак 0,8 м). Апсіду аздаблялі плоскія вертыкальныя цягі. Сцены будынка былі складзены ў тэхніцы дэкаратыўнай мяшанай муроўкі: часаныя вапняковыя блокі чаргаваліся з радамі плінфы, мелі закамары, на якія абапіраўся дах. Знешнія муры храма былі пакрыты вапняковай абмазкай, размалянай белымі палоскамі шыр. 1,5 см, адпаведна памерам каменных блокаў. У муроўцы выкарыстоўвалася плінфа памерам 3—3,7×19—20× ×27—29 см (асн. фармат), 2,8× ×15×21 см і 6×27×30 см. На тарцах і шырокіх баках плінфы трапляюцца знакі і клеймы. Царква мела фрэскавую размалёўку. Упершыню помнік у канцы 19 ст. даследаваў А. М. Паўлінаў, ён падрабязна апісаў муроўку 12 ст., склаў план храма і прапанаваў яго рэканструкцыю. У 1944 абмеры царквы зрабіў П. Бараноўскі. Раскопкі каля будынка праводзілі ў 1964 Г. В. Штыхаў, у 1968 М. К. Каргер. Была вызначана глыбіня падмуркаў, складзеных з невял. камянёў, не змацаваных растворам, і сцен, амаль на метр укапаных у мацярык. У 1982 даследаванні рэшткаў храма прадоўжылі А. А. Трусаў, П. А. Рапапорт і Т. С. Бубенька. У выніку раскопак устаноўлена, што падлога складзена з невял. часаных камянёў, яе ўзровень паднята на 105 см вышэй цокаля будынка. Пад першапачатковай падлогай на глыб. да 1 м знаходзіцца пласт вапнавай рошчыны з дамешкамі дробных камянёў, пад якім залягае культурны пласт 0,4—0,6 м з керамікай 11—1-й чвэрці 12 ст. Да 1961 сцены будынка захоўваліся амаль на ўсю вышыню, у снежні 1961 храм быў разбураны. У 1977 рэшткі будынка законсерваваны.



Муроўка сцяны **Віцебскай царквы Звеставання.**



Фрагмент дэкаратыўнай мяшанай муроўкі **Віцебскай царквы Звеставання**

*Літ.*: 848, 959, 1226. *А. А. Трусаў.*

**ВІЦЕБСКІ АБЛАСНЫ КРАЯЗНАЎЧЫ МУЗЕЙ.** Заснаваны ў кастр. 1918 на базе калекцый краязнаўца А. Р. Брадоўскага. Адкрыты ў чэрвені 1919. Пазней папоўнены матэрыяламі А. П. Сапунова (1845 прадметаў), Е. Р. Раманава, калекцыямі краязнаўцаў, археолагаў-аматараў, прыватнага музея В. П. Федаровіча. У 1924 аб'яднаны з *Віцебскім царкоўнаархеалагічным музеем*, музеем Віцебскай вучонай архіўнай камісіі. У Вял. Айчынную вайну часткова разрабаваны нямецка-фашысцкімі акупантамі, адноўлены ў 1945. Мае больш за 10 тыс. археал. прадметаў (1991). Экспануюцца матэрыялы з раскопак у Віцебску, на гарадзішчах, стаянках і могільніках *Абрамава, Багрынава, Дзявічкі, Дзянісенкі, Дроздава, Жукава, Сцяпанавічы, Замошша, Зашчырына, Кісялі*, Навінка, *Узноснае, Чаркасава* і інш. на Віцебшчыне. Сярод экспанатаў крамянёвыя прылады працы, адшчэпы, наканечнікі стрэл, нажы, гарпуны, сякеры, долаты, жал. нажы, замкі, крэсівы, нажніцы, стамеска, сярпы, скураны абутак і яго фрагменты 12—13 ст. (чаравікі, поршні), берасцяная грамата 13—14 ст., пісалы, засцежкі для кніг, шалі і гіркі і інш. У ліку разнастайных упрыгожанняў рознакаляровыя шкляныя і бронзавыя бранзалеты, спіральныя пярсцёнкі, пацеркі (шкляныя, сердалікавыя, хрусталёвыя, са смальты, бурштыну, гліны), скроневыя кольцы, спражкі, а таксама формы для адліўкі ўпрыгожанняў з бронзы, тыглі. Шмат вырабаў з косці (грабеньчыкі, накладкі для нажоў, тронкі,

пласціны, шахматныя кароль, слон, ладдзя, ферзь). З керамічных вырабаў экспануюцца ляпныя (9—10 ст.) і ганчарныя гаршкі рознай формы, прызначэння і арнаментацыі, міскі, рукамыйнік, курыльныя трубкі, шыферныя прасліцы, кафля з раслінна-геам. і геральдычным арнаментам, цацкі-свістулькі, аптэчныя ступкі 17—18 ст. і інш. У нумізматычнай калекцыі манеты 9—20 ст. краін Арабскага халіфата, Вял. кн. Літоўскага, Расіі, Рэчы Паспалітай, Германіі, Чэхаславакіі, Прусіі (дырхемы, соліды, паўгрошы, грошы, шасціграшовікі, орты, талеры, драйпёлькеры, шылінгі, фларыны, капейкі, рублі і інш.), манетны скарб з Віцебска (гл. ў арт. *Віцебскія манетныя скарбы*), *Добрынскі манетна-рэчавы скарб* і інш.

*Н. Г. Лагойка.*

**ВІЦЕБСКІ ВЕРХНІ ЗАМАК.** Існаваў у 14—18 ст. Размяшчаўся на левым беразе р. Віцьба пры ўпадзенні яе ў Зах. Дзвіну. З Пн быў абмежаваны Віцьбай, з З — Зах. Дзвіной, на Пд і У межаваў з *Віцебскім Ніжнім замкам.* Ва ўсх. яго частцы знаходзілася Замкавая гара (у пісьмовых крыніцах наз. гара Ламіха, або Ваксальная гара), выш. 15 м, пл. 0,7 га (у канцы 19 ст. амаль поўнасцю скапана). У 1928 на ўцалелай яе частцы А. М. Ляўданскі праводзіў археал. раскопкі. Культурны пласт да 1 м. Знойдзены фрагменты ляпной керамікі, што пацвердзіла існаванне на ёй у раннім жал. веку гарадзішча днепра-дзвінскай культуры, у 6—8 ст.— банцараўскай культуры. У 9—10 ст. тут існавала селішча крывічоў, на базе якога ў 10—11 ст. узнік дзядзінец старaж. Віцебска. Пляцоўка дзядзінца авальная, выцягнутая з ПнУ на ПдЗ, умацавана земляным валам з драўляным парканам наверсе. У 12 ст., калі Віцебск стаў цэнтрам удзельнага княства, на дзядзінцы пачалося будаўніцтва царквы св. Міхаіла (гл. *Віцебская царква архангела Міхаіла*). У 12—13 ст. у склад дзядзінца ўключана другое паселішча крывічоў, якое знаходзілася на мысе пры ўпадзенні Віцьбы ў Зах. Дзвіну і з'ўлялася часткай пасада. Новы дзядзінец быў умацаваны гліністапясчаным валам шыр. у аснове да 14 м, выш. і шыр. верхняй часткі каля 6—8 м, перыметр яе складаў 770 м. Унутры насып быў арміраваны драўлянымі перакладнымі канструкцыямі. Прасочана да 12 накатаў унутрывальных канструкцый. Паводле дэндрахраналагічнага аналізу бярвён з унутрывальных канструкцый, вал узводзіўся ў 1136—40, што прыпадае на час княжання Васілька Святаславіча [1132—44]. Пл. дзядзінца ў 12—13 ст. дасягнула 4 га і заставалася нязменнай да ўтварэння Верхняга замка. У 1-й пал. 14 ст. ў часы княжання вял. кн. ВКЛ Альгерда на земляным вале пастаўлены мур «з баштамі вынеслымі і вежамі». Паводле пісьмовых крыніц, з 1351 дзядзінец атрымаў назву «Верхні замак Віцебска», у 16—17 ст. яшчэ наз. «Вышні горад каменны». У плане замак нагадваў трапецыю. Дакументы дазваляюць рэканструяваць яго першапачатковы выгляд. У 14—17 ст. ён меў 8 вежаў: Вялікую браму («Цёмную»), браму да Дзвіны, «фортку» да Віцьбы і 5 вежаў памерамі 7×7 і 8,8×8,8 м. Вышыня



Пліткі для падлогі 12 ст. з **Віцебскага Верхняга замка.**



Бронзавыя бранзалеты 12 ст. з **Віцебскага Верхняга замка.**



Рукамыйнік 18 ст. з **Віцебскага Верхняга замка.**

праслаў абарончых сцен, зробленых з валуноў у тэхніцы трохслойнай муроўкі, на розных участках была рознай і складала ад 7,5 да 4,5—5,7 м. Таўшчыня іх каля падмурка, які быў апушчаны ў вал і апіраўся на вапнавую падушку, дасягала 3 м. Сцены Верхняга замка разам з комплексам мураваных умацаванняў Ніжняга замка ў 14—17 ст. складалі адзіную сістэму абароны Віцебска. Паводле пісьмовых крыніц і ў выніку раскопак устаноўлена, што ў 15 ст. схілы абарончага вала былі пакрыты панцырным пластом гліны, іх стромкасць дасягала 45°. Магчыма, у гэты час насып вала быў расшыраны. Вышыня замкавых вежаў, якія мелі як мінімум 2 ярусы бою, была не менш за 12 м. У выніку шматлікіх войнаў замак неаднойчы быў разбураны. У час руска-польскай вайны 1654—67 у лініі яго абароны паявіліся драўляныя вежы і сцены-гародні. Новая драўляная брама «Цёмная» памерам 11×8,9 м была 4-ярусная і мела 3 гарматныя і мушкетныя баі, пад дашчаным дахам знаходзілася трапіла (спец. прыбудова над дахам вежы для варты). У той жа час паявілася васьмікантовая вежа «Шарамецьеў круглік», сцены якой сечаны ў 1, 2, 3 бервяны ў залежнасці ад яруса бою. Вянчала вежу 6-граннае трапіла. З боку Віцьбы ўмацаванні былі менш магутныя. Малая драўляная вежа, насечаная на стары разбураны мураваны «бычок» — вежу 14 ст. памерам 7,5×4,6 м, мела трапіла, дзе вісеў звон (9 пудоў 30 фунтаў). Была «фортка» да Віцьбы, вежа «Танкова» памерам 6,4×6,4 м з 3 ярусамі баёў. Вуглавая вежа «Падзвінская» («Бабарыкін круглік») была сечана ў 8 кантаў з 4 ярусамі баёў. Яе выш. да абламаў дасягала 12,8 м. З боку Зах. Дзвіны размяшчаліся 2-ярусная Храпавіцкая вежа памерам у аснове 7,5×7,5 м, старая мураваная вежа памерам 10,7×10,7 м (упамінаецца ў інвентарах як «Каменная палата»). Вежы замка злучаліся праслaмі мураваных сцен, якія былі моцна разбураны, таму на іх зверху ўзводзілі драўляныя сцены — гародні і тарасы, месцамі стаялі толькі 2-ярусныя гародні. Інвентары Віцебска за 1638, 1639 і 1641, а таксама карты 17 ст. сведчылі, што на тэр. замка была яшчэ адна «вялікая Вышняя башта», якая стаяла справа ад уваходнай Вялікай («Цёмнай») брамы. Звестак пра яе ніякіх не захавалася. Яшчэ адна лінія абароны — драўляныя ўмацаванні — існавала на першапачатковым гарадзішчы, дзе стаяла царква архангела Міхаіла. У рус. дакументах за лістапад 1654, якія расказвалі пра аблогу і штурм Віцебска, гаварылася, што ў гэтым «деревянном городе шляхта и мещаня заперлися и биютися». Напярэдадні вайны ў замкавым двары стаялі

52 дамы. Пасля шматлікіх войнаў і аблог мураваныя сцены Верхняга і Ніжняга замкаў у 2-й пал. 17 — 1-й пал. 18 ст. былі ў значнай ступені зруйнаваны і на іх месцы ўзведзены драўляныя сцены і вежы. 28.9.1708 войскі Пятра I, якія адступалі, спалілі іх разам з гар. забудовай. Адноўлены В. В. з. згарэў у выніку пажараў 1752 і 1757 і больш не аднаўляўся.

Аснову планіроўкі В. В. з. складалі вуліцы, падпарадкаваныя мясц. рэльефу (ускрыта 6 ярусаў вулічных маставых 13—16 ст.). Вуліцы шыр. каля 2 м (у 17 ст. іх шыр. была 2,5—5 м) былі арыентаваны ў напрамку З—У, вялі на Замкавую гару. Вулічныя насцілы клаліся на лагі з дошак, аполкаў, бярвення. Планіроўка замка заставалася нязменнай да 2-й пал. 17 ст., калі ўтварыўся новы цэнтр — рыначная плошча з ратушай і гандл. радамі. Гэта прасочана ў час археал. даследаванняў на ўчастку раскопу 1977, дзе на месцы жылой забудовы больш ранняга часу пралягала вуліца, узведзеная з бярвення рубкі 1661 і пазначаная на плане Віцебска 1664. У выніку раскопак на замку ўскрыта каля 100 пабудоў жылога і гасп. прызначэння 12—17 ст. Жытлы і клеці мелі зрубную, хлявы — зрубную і слупавую канструкцыю. Да канца 13 ст. пл. жытлаў складала 16—25 $м^2$, пазней — 36—42 $м^2$. Яны мелі падлогу, ставіліся на падмуркі з падкладак, слупоў, рэшткаў больш ранніх збудаванняў і інш. Да 16 ст. ў жытлах пераважалі глінабітныя печы, пазней — цагляныя. Дах зрубных пабудоў быў двухсхільны на лемягах, слупавых пабудоў — аднасхільны на сохах, дашчаны, з 16 ст.— гонтавы, з 2-й пал. 16 ст. ўжывалася керамічная дахоўка. Столь скляпеністая. Кампазіцыйна пабудовы замка аб'ядноўваліся ў сядзібы, якія нагадвалі ў плане вянковы двор, традыцыйны для домабудаўніцтва Паўн. Беларусі. Тапаграфічнае апісанне замка ў 16—17 ст. пакінулі М. Стрыйкоўскі, А. Гваньіні, у 19 ст.— Р. Пінкертон, Д. Мацкевіч, М. Я. Нікіфароўскі, А. П. Сапуноў. Знешні выгляд замка зафіксаваны на карце ВКЛ 16 ст., плане Віцебска 1664, акварэлях Ю. Пешкі сярэдзіны 19 ст. і інш. Археал. даследаванні праводзілі ў 1895—96 Сапуноў, у 1975 Г. В. Штыхаў, у 1976 В. М. Ляўко, у 1977—79 М. А. Ткачоў і Л. У. Калядзінскі, у 1982—83, 1988 Калядзінскі; вывучана больш за 1 тыс. $м^2$. Культурны пласт 6—6,8 м, месцамі да 8—13,7 м, залягае нераўнамерна, што выклікана спецыфікай стараж. рэльефу. У культурных напластаваннях вылучаюць 4 стратыграфічныя пласты: баластны пласт 20—18 ст. (1,2—3,2 м); пласт 17 ст. таўшч. 0,5—1,2 м (месцамі з рэчамі арганічнага паходжання і рэшткамі драўлянай забудовы); пласт канца 17—16 ст. таўшч. 3—3,7 м (рэчы арганічнага паходжання і рэшткі стараж. пабудоў); пласт 11—9 ст. таўшч. 1,7—1,8 м (часам утрымлівае матэрыялы больш ранняй пары).

У працэсе раскопак выяўлена больш за 3 тыс. знаходак: вырабы з металу, дрэва, косці, скуры, каменю, шкла і гліны. Сярод знаходак жал. наканечнікі стрэл, нажы, крэсівы, шпількі, спражкі, замкі, ключы, шпоры, бронзавыя бранзалеты, пярсцёнкі, гузікі, нацельны крыж; білонныя завушніцы і шпілька, касцяныя грабяні, праколкі,



Энкалпіён 14 ст. з **Віцебскага Ніжняга замка.**



Пацеркі з бісеру і шкла, смальты і крышталю 10—13 ст. з **Віцебскага Ніжняга замка.**

іголкі, накладкі, шахматныя фігуркі; шкляныя бранзалеты, пярсцёнкі, пацеркі (бочачкападобная пазалочаная, пасярэбраная, паласатая, шарападобная сіняя, бітрапецападобная светла-зялёная, цёмна-сіняя зонная, эліпсападобная фіялетавая і інш.); драўляныя прылады працы, посуд, рытуальныя рэчы; скураныя абутак, сумкі, рукавіцы; керамічныя сталовы і кухонны посуд, кафля, курыльныя люлькі, цацкі і інш. На тэр. замка прадугледжана стварэнне археал. музея.

*Літ.*: 46, 668, 1189, 1197, 1202, 1346.
*М. А. Ткачоў, Л. У. Калядзінскі.*

**ВІЦЕБСКІ ГУБЕРНСКІ СТАТЫСТЫЧНЫ КАМІТЭТ,** афіцыйная ўстанова, якая займалася зборам статыстычных звестак пра губерню, яе паветы, гарады, насельніцтва, прамысловасць, колькасць зямель і інш. На падставе правераных і апрацаваных звестак складаліся статыстычныя ведамасці і табліцы, якія прадстаўляліся ў Цэнтр. статыстычны к-т, а таксама прыкладаліся да гадавых справаздач віцебскіх губернатараў пра становішча ў губерні. Створаны 4.5.1835, працаваў да жніўня 1836, пасля чаго з-за адсутнасці матэрыяльных сродкаў закрыты. Аднавіў дзейнасць 15.4. 1853, але да 1863 існаваў намінальна, вынікі дзейнасці былі вельмі нязначныя. Зноў дзейнічаў з 22.9. 1863 да 1917. Старшынёй к-та з'яўляўся губернатар. У склад к-та ўваходзілі памочнік старшыні, сакратар, неадменныя, правадзейныя і ганаровыя члены. У розны час сакратарамі і справаводамі к-та працавалі К. А. *Гаворскі*, А. М. *Семянтоўскі*, А. П. *Сапуноў*, А. М. Сазонаў. Сабраныя матэрыялы друкаваліся ў «Витебских губернских ведомостях», «Памятных кніжках Віцебскай губерні» і асобных манаграфіях. К-т па меры неабходнасці збіраўся на чарговыя сходы. Пратаколы сходаў друкаваліся ў «Витебских губернских ведомостях». Справаздачы пра дзейнасць за год дасылаліся ў Цэнтр. статыстычны к-т. 29.10.1868 г. пры к-це створаны музей старажытнасцей. Рэчавыя ахвяраванні ў яго ўносілі М. Ф. *Кусцінскі*, В. П. *Федаровіч*, М. Я. Нікіфароўскі і інш. У 1890 г. Е. Р. *Раманаў* перадаў музею 200 прадметаў з раскопак Люцынскага могільніка. Камітэтам распаўсюджваліся *апытальныя лісты* і збіраліся звесткі пра гарадзішчы, курганы і могільнікі для складання археал. карты Віцебскай губ. Падтрымліваў цесныя сувязі з Маскоўскім археал. т-вам і *археалагічнай камісіяй* у Пецярбургу. Члены к-та ўдзельнічалі ў рабоце археал. з'ездаў.

*Літ.*: 1043. *Л. У. Хмяльніцкая.*

**ВІЦЕБСКІ НІЖНІ ЗАМАК.** Размяшчаўся на Пд і ПдУ ад *Віцебскага Верхняга замка.* Плошча 7—7,5 га. З Пд і У абмежаваны ручаём, з З — р. Зах. Дзвіна. Першыя звесткі пра замак належаць польскаму храністу 16 ст. М. Стрыйкоўскаму і адносяцца да 14 ст. Паводле пісьмовых крыніц, замак узведзены каля 1330—50-х г. кн.

Альгердам як знешняя лінія абароны вакол гандл.-рамесніцкага пасада (гл. *Віцебскі пасад*), што пацвярджаецца матэрыяламі раскопак. Даследаваннямі ўстаноўлена, што фартыфікацыйныя ўмацаванні ствараліся ў 2 этапы: спачатку ўзводзіўся каменны пояс, пазней дадатковыя глініста-земляныя ўмацаванні. Апісанні віцебскіх замкаў, прыведзеныя ў Інвентары 1638 і «Каштарысных кнігах» за 1656, дазваляюць рэканструяваць першапачатковы іх выгляд. Даўжыня ўмацаванняў Ніжняга замка складала 1160 м. Па краі пляцоўкі была ўзведзена магутная крапасная сцяна, умацаваная з боку поля земляным абарончым валам, які адсутнічаў у месцах будаўніцтва вежаў, што выступалі за перыметр сцен. У лініі ўмацаванняў замка было 7 мураваных вежаў. Усе «глухія» вежы сканцэнтраваны ва ўсх. частцы горада, адкуль найб. верагодны быў удар праціўніка. Абарончыя сцены шыр. 1,6—3,2 м рабілі з валуннага каменю на вапне ў тэхніцы «Grand appareil». Планіроўка і тэхніка будаўніцтва вежаў прасочана на прыкладзе вуглавой вежы «Духаўскі круглік» («Нарожнай»). Яна нагадвала перакошаны align=""рознабаковы чатырохвугольнік з памерамі бакоў ад 6,7 да 8,2 м. Ніжні ярус вежы, як і сцен, выкананы ў тэхніцы «Grand appareil», 2 верхнія, відаць, у тэхніцы лусковай муроўкі, калі шчокі выкладвалі з буйнапамернай цэглы, а ядро забутоўвалі валунным каменем. Завяршалася вежа стромкай 4-схільнай страхой з манастырскай дахоўкай. На думку М. А. Ткачова, выш. не перавышала 12—13 м. У першапачатковым выглядзе мураваныя замкі праіснавалі нядоўга. У 1437 Віцебск заваяваў кн. Міхаіл Жыгімонтавіч, які дашчэнту разбурыў замкавыя ўмацаванні. У канцы 15 ст. яны па загаду літ. кн. Аляксандра «даводзяцца да абарончага становішча». Пасля рамонту Ніжні замак ператварыўся ў камбінаванае драўляна-мураванае ўмацаванне, якое да 18 ст. стала поўнасцю драўляным. Аснову планіроўкі замка складалі вулічныя маставыя. Першапачаткова цэнтральная магістраль — вуліца Вялікая — праходзіла ва ўсх. частцы замка, злучала Завіцебную браму з Задунайскай. Да яе прымыкала вуліца Прабойная, якая вяла на Верхні замак. У канцы 16 ст. вуліца Вялікая прадоўжана да Заручайскай праезнай брамы. Адрэзак вуліцы, што вёў да Задунайскай брамы, атрымаў назву Задунайскай, а пазней Веліказамкавай. У 17 ст. існавалі вуліцы, што вялі ад Валконскага кругліка да Жыдоўскай брамы і ад вуліцы Вялікай да Вялікай праезнай брамы Верхняга замка. Ва ўсх. частцы замка знаходзілася Пятніцкая (пазней Аляксееўская) царква, у заходняй — *Віцебская царква Звеставання*, на Пн ад якой размяшчаўся рынак, побач з ім з канца 16 ст.— карчма. Каля Аляксееўскай царквы быў яшчэ адзін рынак, дзе «коморы крамные стояли». Для Ніжняга замка характэрна шчыльная сядзібная забудова. Асн. частка насельніцтва жыла ў аднакамерных хатах, рубленых у «верхняе абло» з астаткам або «чысты вугал» і накрытых дошкамі або драніцай. Зрубы памерам ад 3,5×3,5 да



Падвеска-«канёк» 13—14 ст. з **Віцебскага Ніжняга замка.**



Пячатка 17 ст. з **Віцебскага Ніжняга замка.**

5,8×6,3 м ставіліся на драўляныя падваліны, мелі падлогу з дошак на лагах, глінабітную печ з дамешкай каменю, якая палілася па-чорнаму. У канцы 16 ст. паяўляюцца шматпавярховыя дамы на падклецах. Падклеці былі гасп. і жылога (або вытворчага) прызначэння. Пакоі на паверхах мелі зашклёныя вокны, кафляныя печы з дымаходамі. Побач з хатамі размяшчаліся гасп. пабудовы, якія разам з жытлам складалі сядзібны комплекс. Тып багатага гар. будынка прадстаўлены дамамі Шапкі і Агінскага. Дом Шапкі складаўся з 2 размешчаных пад вуглом корпусаў, меў высокі ўваход у выглядзе 8-граннай вежы, што паўтарала форму «круглікаў» віцебскіх замкаў, і высокае падклецце. Жылая частка мела 2



Касцяны крыж з выявамі святых 15 ст. з **Віцебскага Ніжняга замка.**

паверхі. Асн. частка дома кн. Агінскага — выцягнуты прамавугольнік, падняты на падклецце і абкружаны галерэяй, да яго прымыкаў 6-гранны аб'ём з шырокай знадворнай лесвіцай і высокая вежа, накрытая шатром.

Археал. даследаванне пачаў у 1963 Г. В. Штыхаў у зах. частцы замка, раскапана 572 $м^2$ (1963—64. 1966, 1972). Выяўлены 3 ярусы вуліцы Вялікай, бытавая забудова 14—18 ст., ускрыты стараж. прытворы царквы Звеставання (Благавешчанскай), выяўлены сляды перабудовы царквы кн. Альгердам (14 ст.). У 1976 раскопкі ў цэнтр. і зах. частках замка праводзіла В. М. Ляўко (каля 130 $м^2$). У цэнтр. частцы яна зафіксавала аснову ўзвышша, на якім размяшчаўся Верхні замак, даследавала частку Ніжняга замка, што прымыкала да ўзвышша. У 1977, 1978 раскопкі ў цэнтр. і ўсх. частках замка праводзіў М. А. Ткачоў (40 $м^2$), у 1979 — М. А. Дзмітрыеў (100 $м^2$). Праведзеныя работы дазволілі зрабіць

вывнову пра позняе засяленне паўн.-ўсх. ускраіны замка (16 ст.). У 1981—89 даследаванне замка праводзіла Т. С. Бубенька, ва ўсх. яго частцы раскапана 1360 м², у зах.— 1115 м², культурны пласт 14—18 ст. ад 2 да 4,5 м. Выяўлена да 8 будаўнічых перыядаў бытавой забудовы замка, раскапаны рэшткі драўлянай карчмы 17 ст., мураваных абарончых умацаванняў, якія да нядаўняга часу лічыліся драўлянымі (у 1983—84 даследаванне ўмацаванняў праводзілася разам з М. А. Ткачовым).

Сярод знаходак — прылады працы кавалёў, ювеліраў, рэзчыкаў па косці, дрэве, камені, цесляроў, шкларобаў, гарбароў, ткачоў, ганчароў, а таксама прадметы побыту, зброя, упрыгожанні, цацкі. Да рэдкіх знаходак належаць бронзавы крыж — складзень з выявай велікамучаніка Мікіты (14 ст.), касцяны нагрудны крыж з выявай біблейскіх сюжэтаў на адным баку і св. Міколы, Сергія, Нікана на другім (15—16 ст.), кляймо майстра-шклароба (17 ст.), шкляная ўстаўка ў пярсцёнак з выявай уладальніка (магчыма, аднаго з кн. Агінскіх, 17 ст.).

*Літ.:* 162, 166, 200а, 201, 604, 668, 1189, 1197. *Т. С. Бубенька.*

**ВІЦЕБСКІ ПАСАД,** тэрыторыя каля падножжа Замкавай гары і на Дзвінскім узвышшы — пляцоўцы астраўнога тыпу, утворанай рукавом р. Віцьбы і рэчышчам ручая Дунай (у пазнейшых крыніцах вядомы пад назвай «Пілатаў ручай»). Паводле археал. даследаванняў у паўд. частцы ўзвышша ў 6—8 ст. існавала паселішча *банцараўскай культуры* і *тушамлінскай культуры*, пазней заселенае *крывічамі*, якія ў 2-й пал. 9 ст. рассяліліся на У і ПдУ ад Замкавай гары. На працягу 10 ст. аграрна-рамесніцкія паселішчы, што існавалі вакол дзядзінца, трансфармаваліся ў рамесніцкія пасады. У сувязі з асаблівасцямі рэльефу мясцовасці, аддаленасцю ад гар. цэнтра і суднаходнай ракі развіццё пасадаў адбывалася нераўнамерна. Больш цесна з дзядзінцам было звязана паселішча ва ўсх. частцы будучага Ніжняга замка, яго пл. ў 11 ст. дасягала 3 га. Блізкасць суднаходнай ракі, відаць, з самага пачатку арыентавала паселішча на Дзвінскім узвышшы пераважна на развіццё гандлю. У 1-й пал. 12 ст. пачаўся працэс зліцця разрозненых пасадскіх паселішчаў. Адначасова з забутоўкай перасохлага рукава Віцьбы адбывалася памяншэнне тэр. пасада за кошт уключэння паўн. часткі Дзвінскага ўзвышша ў склад дзядзінца. Да 13 ст. пл. пасада дасягнула 7—7,5 га і заставалася нязменнай да 18 ст. Амаль да будаўніцтва мураваных умацаванняў вакол *Віцебскага Ніжняга замка* (2-я чвэрць 14 ст.) тэр. пасада была, відаць, абаронена толькі прыроднымі ўмацаваннямі: з З р. Зах. Дзвіна, з Пн р. Віцьба, з Пд ручаём Дунай. Значная глыбіня яроў і стромкасць схілаў рабілі пасад раннесярэдневяковага Віцебска непрыступным для ворагаў. М. А. Ткачоў на падставе ўскрытых ім у цэнтр. частцы пасада ўнутрывальных канструкцый (вугал універмага па вул. Замкавай) лічыць, што яны з'яўляліся паўд. мяжой вакольнага горада (пазнейшага Ніжняга замка), збудаванага ў 2-й чвэрці 12 ст. Аднак аналіз новых даных пра характар абарончых збудаванняў Ніжняга замка, атрыманых у час даследаванняў ва ўсх. (1983—84, 1987—89) і зах. (1985) частках горада, сумяшчэнне планаў Віцебска 18—19 ст. з сучаснымі дазволілі ўстанавіць, што ўскрытыя Ткачовым канструкцыі адносяцца да паўд. сцяны Віцебскага Верхняга замка. Для 10—11 ст. характэрна бессістэмная забудова пасада. Адначасова з пачаткам знешняй планіроўкі пасада (зліццё разрозненых раней паселішчаў) пачынаецца ўдасканаленне ўнутранай планіроўкі. Для пасада гэтага часу характэрна вулічная сістэма планіроўкі, якая карэкціравалася толькі ўмовамі рэльефу мясцовасці. Асн. магістраллю горада была вуліца, якая існавала ва ўсх. частцы пасада з 12 ст. У больш позніх крыніцах яна вядома пад назвай Вял. Задунайскай, злучала Задунайскую браму з Завіцебнай, г. зн. у стараж.-рус. час — пасады на Узгор'і і ў Задунаўі. Ва ўсх. частцы пасада існаваў шэраг вуліц і завулкаў, якія звязвалі ўскраіны горада з цэнтрам. Адрозненні ў арыенціроўцы сядзібных комплексаў ва ўсх. і зах. частках пасада (па гадзіннікавай і супрацьгадзіннікавай стрэлцы) дазваляюць меркаваць пра фарміраванне самастойных планіровачных цэнтраў, у напрамку якіх ішлі вуліцы. Ролю такіх цэнтраў у сярэдневяковых гарадах выконвалі рынкі, абавязковай прыналежнасцю якіх былі цэрквы. В. М. Ляўко абгрунтавала наяўнасць гандл. цэнтра ў зах. частцы пасада на беразе Зах. Дзвіны, тут жа размяшчалася пабудаваная ў 1140-я г. царква Звеставання (Благавешчанская). Другі гандл. цэнтр існаваў на ПдУ ад дзядзінца, пра што сведчыць шэраг вуліц, наяўнасць тут «издревле» Пятніцкай царквы і блізкасць курганнага некропаля. Пра ранняе існаванне Пятніцкай царквы сведчаць знаходкі ва ўсх. частцы пасада плінфы, аналагічнай плінфе царквы Звеставання, плітак падлогі, канцэнтрацыя тут культавых рэчаў 12—13 ст. (крыжыкі, фрагмент аправы абраза, наверша хораса і інш.). Для ўсх. часткі пасада сядзібная забудова характэрна з моманту яго ўзнікнення, для зах. часткі — з 12 ст. На Дзвінскім узвышшы слядоў забудовы да 12 ст. не выяўлена. Гар. сядзібы ўшчыльную прымыкалі да праезнай часткі вуліцы, прычым тарцы маставой упіраліся ў агароджу. Устойлівасць вулічнай планіроўкі абумовіла ўстойлівасць межаў сядзіб у 12—14 ст. (даследавана 5 ярусаў замошчвання маставой і 9 ярусаў бытавой забудовы). Сядзібы ўключалі хату, клець (свіран), адзін, радзей два хлявы, лёгкую павець для жывёлы. Часам у сядзібы ўваходзілі слупавыя павеці для гасп. і вытворчых патрэб. Пабудовы размяшчаліся па перыметры агароджы, утвараючы замкнёны дворык, які ў большасці выпадкаў быў замошчаны. Гараджане жылі ў наземных аднакамерных жытлах пл. 12,5—14,5 м², рубленых у «верхняе абло» з невял. астаткам, мелі высока паднятую падлогу (двухкамерныя жытлы трапляюцца рэдка і, відаць, належалі заможным людзям). Пасадскія жытлы рубілі з хваёвых, часам яловых бярвён, сцены зрэдку канапацілі мохам. У сувязі са значнай вільготнасцю грунту пабудовы ставіліся на падмурак і мелі высока ўзнятую падлогу. У адным з кутоў размяшчалася печ-каменка, да якой адным канцом прымыкалі палаці. На рубяжы 13—14 ст. паявіліся жытлы, рубленыя ў «чысты вугал».



Пярсцёнак і медальён з княжацкім знакам 12 ст. з **Віцебскага пасада.**



Бронзавыя фібулы з **Віцебскага пасада.**

Тады ж узніклі і каркасныя пабудовы. Багатая і разнастайная матэрыяльная культура жыхароў пасада. З 10 ст. тут развіваліся кавальскае, бронзаліцейнае, ганчарнае і касцярэзнае рамёствы, на рубяжы 11—12 ст. атрымалі развіццё шкларобства (выраб пацерак, пазней бранзалетаў), з 12 ст. пашыраны гарбарнае рамяство, разьба па дрэве, камені, косці і інш.

Археал. даследаванне гандлёва-рамесніцкага пасада праводзіла экспедыцыя Ін-та гісторыі АН БССР пад кіраўніцтвам Г. В. Штыхава (1963—66, 1972). У 1976 невял. раскопкі ў зах. частцы пасада рабіла В. М. Ляўко, у 1977 разведвальныя раскопкі ва ўсх. і паўд. частках пасада — М. А. Ткачоў, у 1979 даследаванні праводзіў М. А. Дзмітрыеў, у 1981—89 — Т. С. Бубенька. Усяго даследавана больш за 3500 м², культурны пласт 2,2—8 м.

Сярод унікальных знаходак — каменная ліцейная форма 6—8 ст. для адліўкі лунніц (1966), бронзавы лодкападобны бранзалет 10—11 ст., упрыгожаны вертыкальнымі змейкамі (1987), залаты драцяны пярсцёнак і залатая грушападобная завушніца 12 ст., заамарфная падвеска-канёк рубяжа 13—14 ст. (1883), створка абразка-складня з выявай шматфігурнай сцэны з евангельскага цыкла «Нараджэнне Хрыстова» (1964), касцяны нацельны абразок з выявай евангеліста Матфея, якая датуецца 2-й пал. 13 ст. (1983). касцяная заамарфная падвеска-рыба 13 ст., бронзавае з пазалотай наверша хораса з выявай звера з пароды каціных 13 ст., свінцовая пячатка-пломба з выявай Мікалая Мірлікійскага 12 ст. і інш.

*Літ.*: 41, 46, 161, 163, 166, 1189, 1197, 1346. *Т. С. Бубенька.*

**ВІЦЕБСКІ УЗГОРСКІ ЗАМАК.** Размяшчаўся на Пн ад *Віцебскага Верхняга замка* і *Віцебскага Ніжняга замка*, паміж рэкамі Зах. Дзвіна і Віцьба (на яе правым беразе). Займаў частку ўзвышша Узгор'е, а таксама Успенскую (Лысую) гару. Меў амаль прамавугольную форму, пл. каля 10 га. З Пн абмежаваны штучным ровам шыр. 15—20 м, глыб. да 8 м. У 10—13 ст. на тэр. замка існавала неўмацаванае паселішча, якое займала паўд. і часткова ўсх. ўскраіну Узгор'я (пл. каля 2 га). У 13—15 ст. тут пабудаваны Успенская, Васкрасенская, Увядзенская цэрквы, пазней драўляная ратуша, гасціны двор, гандл. рады (ганчарны, саляны, мясны і інш.). У канцы 16 ст. гандл.-эканам. цэнтр Віцебска перанесены з Ніжняга замка на Узгор'е. У пісьмовых крыніцах яго называлі пасадам Завіцебным (Вялікім), пазней «местам» (горадам). На рубяжы 16—17 ст. паўд. частка Узгор'я абнесена драўлянымі сценамі і стала наз. «астрог Узгорскі». Паводле інвентароў 1641 і 1644, гэты ўчастак вядомы як Узгорскі замак, меў 3 брамы, 7 вежаў, агульная даўж. драўляных умацаванняў каля 529 сажняў (каля 1030 м). З Ніжнім замкам злучаўся мостам цераз Віцьбу. Археал. раскопкі на тэр. замка праводзілі ў 1972 Г. В. Штыхаў на пл. 104 м², у 1979—82, 1984, 1988—89 В. М. Ляўко на пл. больш за 1000 м². Культурны пласт 12—13 ст. на асобных участках да 0,7 м. Знойдзены пацеркі, шкляныя бранзалеты, шыферныя прасліцы. У 1979 на беразе Віцьбы выяўлены 3 ярусы драўлянай прыстані (канец 16—17 ст.), у паўн. частцы замка раскапаны фрагмент абарончай сцяны (драўляныя канструкцыі). У 1981—82 у цэнтр. частцы замка знойдзены рэшткі жытлаў 12 ст. з каменнымі агнішчамі, у мацерыковых ямах — кераміка 10 ст. У 1988—89 вывучаны стараж. рэльеф і вызначана мяжа паўд. схілаў Успенскай гары ўздоўж вуліцы Талстога, фрагменты драўлянай забудовы 12—17 ст., мураваных збудаванняў 18 ст. У час раскопак сабрана шмат вырабаў з гліны, шкла, жалеза, скуры.



**Віцебскі манетны скарб,** знойдзены ў 1893.

*Літ.*: 46, 668, 1346. *В. М. Ляўко.*

**ВІЦЕБСКІ ЦАРКОЎНА-АРХЕАЛАГІЧНЫ МУЗЕЙ.** Існаваў у 1893—1919. Засн. Е. Р. Раманавым і А. П. Сапуновым. Першыя экспанаты сабраны ў Віцебску. Музей папаўняўся матэрыяламі археал. раскопак на Віцебшчыне, выпадкова знойдзенымі рэчамі. У 1905 у музеі было 1247 экспанатаў, у т. л. унікальныя калекцыі партрэтаў 18 ст., узоры нар. разьбы па косці і дрэве, царкоўнае начынне, манеты, медалі і інш. У 1919 большасць матэрыялаў музея перададзена Віцебскаму губернскаму музею (гл. *Віцебскі абласны краязнаўчы музей).*

*Літ.*: 310, 411.

**ВІЦЕБСКІЯ МАНЕТНЫЯ СКАРБЫ.** 1) Знойдзены ў Віцебску ў 1893. Складаўся з 157 сярэбраных манет. Р а с і я. 52 экз. дзенгаў Івана III, дзенгаў і капеек Івана IV, 21 экз. капеек Фёдара Іванавіча, 10 экз. капеек Барыса Фёдаравіча, 4 экз. капеек Міхаіла Фёдаравіча, 5 экз. капеек Аляксея Міхайлавіча. Рэч Паспалітая. Трайны грош 1598 Зыгмунта III Вазы, трыццаціграшовік 1663 Яна Казіміра. Ухаваны ў 3-й чвэрці 17 ст. Скарб паступіў у Віленскі музей старажытнасцей, далейшы лёс невядомы. 2) Знойдзены ў Віцебску ў 1909. Складаўся з 1017 білонных манет. Р э ч П а с п а л і т а я. 1,5-грашовікі Зыгмунта III Вазы. Ш в е д с к а я П р ы б а л т ы к а. Драйпёлькеры Густава II Адольфа Вазы [1611—32], соліды рыжскія Крысціны Аўгусты Вазы [1632—54]. Ухаваны ў 3-й чвэрці 17 ст. Лёс скарбу невядомы. 3) Знойдзены ў Віцебску на тэр. парку імя У. І. Леніна ў 1920. У гліняным гаршку было 792 сярэбраныя грошы пражскага (маса 2052 г) манетнага двара Кутна Гара: 6 экз. Карла I [1346—78]; 785 экз. Вацлава IV [1378—1419], з іх 2 з кантрамаркай г. Аўсбурга, 1 — г. Рэгенсбурга (гл. *Контрамаркіраванне манет*); 1 экз. Іржы Падэбрада [1458—71] — адзіная знаходка на тэр. Беларусі. Ухаваны ў канцы 1450-х г. Большая частка скарбу (2000 г, 767 манет) захоўвалася ў Віцебскім аддзяленні Бел. дзярж. музея, астатнія — у Бел. дзярж. музеі (Мінск). Пасля 1941 лёс невядомы.

*Літ.*: 1621, 1629. *І. Ф. Масько.*

**ВІШАНЬКА,** стаянка і курганны могільнік каля в. Вішанька Рагачоўскага р-на.

С т а я н к а *грэнскай культуры* ранняга мезаліту. На паўд.-ўсх. ускраіне вёскі, на правым беразе р. Друць. Памер 50×30 м. Адкрыў у 1981 і даследаваў у 1982, 1988 В. Ф. Капыцін, раскапана 12 м². Знаходкі залягалі на глыб. 0,3—0,5 м у пласце пяску: крамянёвыя прылады працы (тронкавыя, асіметрычныя наканечнікі стрэл, рэтушаваныя разцы, канцавыя скрабкі, нажападобныя пласціны і адшчэпы), прадукты расшчаплення крэменю (нуклеусы, фрагментаваныя пласціны і адшчэпы). Невял. памеры помніка і крамянёвы інвентар даюць падставу аднесці яго да кароткачасовага паселішча першабытных паляўнічых.

К у р г а н н ы м о г і л ь н і к *дрыгавічоў.* За 200 м на Пд ад стаянкі. 15 насыпаў (было 20) выш. 1,5—3 м, дыям. 8—12 м. У 1966 Радзіміцкая экспедыцыя Ін-та археалогіі АН СССР даследавала 4 курганы выш. 1—1,5 м, дыям. 5—7 м. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце галавой на З (жаночае пахаванне) і на У (мужчынскія). Знойдзены пацеркі, падвескі (лунніцы, крыжык), трохпацеркавае скроневае кольца. Датуецца 11—12 ст.

*Літ.*: 568, 1116.

*Г. Ф. Салаўёва, В. Ф. Капыцін.*

**ВІШЧЫН,** гарадзішча канца 11—сярэдзіны 13 ст. тыпу феадальнаўладальніцкіх замкаў паміж вёскамі Вішчын і Кісцяні Рагачоўскага р-на. На правым высокім беразе Дняпра. Пляцоўка паўкруглая, пл. 0,63 га. З боку поля ўмацавана 3 паралельнымі лініямі валоў і равоў, якія складалі паласу абароны шыр. каля 30 м. З боку ракі абмежавана стромкім абрывам рачной тэрасы, штучных умацаванняў няма. Выш. вонкавых валоў 2,5—3 м, глыб. равоў 3,5 м. Вядома з 1873, абследавалі ў пач. 1880-х г. С. Ю. Чалоўскі, у 1931 А. М. Ляўданскі, у 1950 Ю. У. Кухарэнка, у 1956 В. М. Мельнікоўская, у 1976—85 раскопкі праводзіў Э. М. Загарульскі. Даследавана 2350 м², што складае больш за $^2/_3$ усёй плошчы. Культурны пласт 0,4 м у цэнтры пляцоўкі і 1,5 м на краі каля ўнутранага вала, выш. якога каля 4 м.

Гарадзішча пабудавана на месцы стаянкі мезаліту і ранняга неаліту. На грэбені ўнутранага вала выяўлены і на працягу 30 м даследаваны рэшткі згарэлай абарончай сцяны, пабудаванай з гарызантальна пакладзеных бярвён, умацаваных кароткімі папярочнымі сценкамі. Месцамі захаваліся 3—4 бервяны дыям. 18—23 см, умацаваныя кароткімі папярочнымі сценкамі на адлегласці 5—5,5 м адна ад адной. Тыльны бок сцяны абмазаны глінай. Каля асновы ўнутранага вала прасочана яшчэ адна сцяна з часаных дошак, якая адгароджвала вал ад участка забудовы. На пляцоўцы выяўлены рэшткі 6 наземных драўляных пабудоў у адлегласці 10—15 м адна ад адной, размешчаных уздоўж унутранага вала, у 2 жылых пабудовах захаваліся рэшткі падлогі з дошак і развалы печаў. Побач з жыллём знаходзілася гасп. пабудова тыпу свірна з абгарэлым зернем. У паўд.-зах. частцы гарадзішча знойдзены рэшткі майстэрні ювеліраў: абломкі гліняных трубак ад соплаў горна, гліняная льячка з застылай бронзай, невял.



**Вішчынскі грашова-рэчавы скарб.**

кавадла, матрыцы для вырабу крыжападобных падвесак, раснаў, колтаў з выявай грыфонаў, вырабы з каляровых і каштоўных металаў (розныя тыпы бранзалетаў і падвесак, пярсцёнкі, пацеркі, шпількі, нацельныя крыжы, бразготкі, шкляныя і хрусталёвыя пацеркі і бранзалеты). Мяркуецца мясц. вытворчасць перагародчатых эмалей. Знойдзены разнастайны рэчавы матэрыял. З рознымі галінамі гасп. і вытворчай дзейнасці звязаны знаходкі: абломкі 2 сашнікоў, 2 матык, сярпоў, жорнаў, шлакі, зубілы, молаты, нажы, ножны, шылы, іголкі, гарпуны, рыбалоўныя кручкі, праслыцы. Шмат прадметаў ваеннай справы: наверша і крыжавіны мяча, шарападобны бронзавы кісцень, кавалкі кальчуг, пласціны ад панцырных даспехаў, наканечнікі стрэл і коп'яў, інкруставаныя меддзю і серабром шпоры, серыя страмён, цуглі. Каля крапаснай сцяны на вале выяўлены *Вішчынскі грашова-рэчавы скарб*, закапаны, магчыма, у апошнія часы жыцця паселішча. Знаходка свінцовай пячаткі Мсціслава Расціславіча Храбрага сведчыць пра сувязь замка з дынастыяй смаленскіх князёў.

*Літ.*: 183, 388. *А. М. Ваганава.*

**ВІШЧЫНСКІ ГРАШОВА-РЭЧАВЫ СКАРБ.** Знойдзены каля в. Вішчын Рагачоўскага р-на ў час даследавання крапаснай сцяны гарадзішча ў 1979. Адзін з найб. выдатных па мастацкай каштоўнасці скарбаў, знойдзеных на Беларусі. Складаўся з рэчавай і грашовай частак. Рэчавая прадстаўлена жаночымі ўпрыгожаннямі: фрагменты караляў з 3 авальных сярэбраных пацерак і 4 крынападобных падвесак; 2 колты з выявамі птушак на шчытках, выкананых у тэхніцы перагародчатай эмалі; зоркавы 6-прамянёвы колт з зерню і колт з ажурным краем і выявамі 2 птушак і крына ў цэнтры (тэхніка чэрні); фрагменты расен — ланцужкоў з цісненых калодачак-паўцыліндрыкаў, на якіх падвешваліся колты; 2 падвескі зканічнымі верхавінкамі і прымацаванымі да іх ланцужкамі з круглымі бляшкамі з скразнымі адтулінамі, упрыгожаныя сканню і зерню, апраўленыя дробнымі кольцамі; масіўны бранзалет, скручаны з 3 жгутоў з канцамі ў выглядзе стылізаваных галовак змей; двухстворкавы пласціністы бранзалет з раслінным арнаментам і гравіраванымі выявамі птушак. Усе рэчы з высакапробнага серабра, колты з эмалямі, крыжападобныя падвескі, пацеркі і пласціністы бранзалет залачоныя. Грашовая частка складаецца з сярэбраных злітКаў-грыўняў: 2 наўгародскія, 8 літоўскіх, 6 кіеўскіх і 2 палціны наўгародскага і літ. тыпаў. Ухаваны скарб у канцы 12—1-й трэці 13 ст. Зберагаецца ў Нумізматычным кабінеце БДУ.

*Літ.*: 183, 388. *А. М. Ваганава.*

**ВОЙСКАЯ,** курганны могільнік дрыгавічоў каля в. Войская Камянецкага р-на. За 1,8 км на ПнУ ад вёскі, за 400 м на ПдУ ад хутара Прыходы, справа ад дарогі на в. Лісоўчыцы. Мясц. назва Шведскія магілы. Захавалася 13 пясчаных насыпаў выш. 0,2—0,6 м, дыям. 3—6 м, па контуры абкладзены валунамі. Выявіў і даследаваў 31 курган у 1959 І. В. Біруля, абследавала ў 1980, 1985, даследавала ў 1981—83 (8 курганоў) Т. М. Каробушкіна. Пахавальны абрад — трупаспаленне (2 насыпы) і трупапалажэнне (28), 9 насыпаў без пахаванняў. Адзіночныя пахаванні на гарызонце ці ў невял. прамавугольных ямах глыб. 15—50 см, галавой на З (18) і У (10).







Сярэбраныя і бронзавае скроневыя кольцы (1, 3), шкляныя пацеркі (2), гліняны гаршчок (4) з курганнага могільніка **Войская**.

У 19 курганах пад дзёрнам выяўлены каменныя вымасткі.

Пахавальны інвентар — ганчарныя гаршкі з высокім, злёгку адагнутым венчыкам, хвалістым арнаментам, рыфленнем (адзін гаршчок чорнаглянцаваны), фрагменты гаршкоў, маленькі трубчасты замок, каваныя цвікі, праслыцы з ружовага сланцу, пацеркі (шкляныя рознакаляровыя і пасярэбраныя, металічныя зярнёныя, гліняныя белыя), скроневыя кольцы (трохпацеркавае зярнёнае, драцяныя ў паўтара абарота, S-падобнае), вітыя пярсцёнкі.

Доказам прыналежнасці могільніка дрыгавічам з'яўляецца тыповы камплект рэчаў: гаршкі, трохпацеркавае скроневае кольца, зярнёныя металічныя пацеркі. На думку В. В. Сядова, могільнік належаў нашчадкам ятвягаў, асіміляваных славянамі (каменныя вымасткі, абкладка валуноў вакол насыпаў). Датуецца 10—12 ст.

*Літ.*: 131, 584, 586, 588, 1052, 1056. *Т. М. Каробушкіна.*

**ВОЛАК,** в о л а к і, старажытна-рус. назва месца найб. збліжэння 2 суседніх суднаходных рэк, дзе карацейшым і найзручнейшым шляхам рачныя судны, чаўны перацягвалі (валаклі) на катках і колах па сушы або выгружаныя з іх тавары перавозіліся на фурманках ці пераносіліся з аднаго воднага басейна ў другі. Вядомы па пісьмовых крыніцах («Аповесць мінулых часоў», Дагавор Смаленска з Рыгай і Гоцкім берагам 1229 і інш.) В. паміж верхнім Дняпром і левымі прытокамі Зах. Дзвіны, яе правымі прытокамі і Ловаццю, што злучалі адрэзкі *шляху з «варагаў у грэкі»*. Адлегласць паміж крайнімі пунктамі В. звычайна не перавышала 20—30 км. В. маглі выкарыстоўвацца ў перыяд навігацыі (з вясны да восені) рэгулярна ці зрэдку, у абодвух напрамках руху ці ў адным, што залежала ад зручнасці перамяшчэння і прыроднага рэльефу мясцовасці, наяўнасці схілу на водападзеле, балот, азёр. Даследчыкі М. П. Загоскін, В. А. Жучкевіч і інш. на аснове «волакавай» тапаніміі, аналізу тапаграфіі і геамарфалагічнага характару мясцовасці адзначылі на тэр. Беларусі каля 20 сярэдневяковых В., якія злучалі таксама левыя прытокі Прыпяці і правыя Дняпра з прытокамі Зах. Буга і Нёмана. Дадатковыя звесткі пра існаванне стараж.-рус. В. даюць археал. і нумізматычныя матэрыялы. Нярэдка на іх месцы сустракаюцца рэшткі стараж. паселішчаў і курганныя могільнікі, якія належалі насельніцтву, што абслугоўвала В., а таксама знаходзяць грашова-рэчавыя скарбы, захаваныя гандлярамі або мясц. жыхарамі ў час небяспекі. Так, каля В. паміж прытокам Бярэзіны р. Сергуч і прытокам Зах. Дзвіны р. Эса знаходзяцца некалькі курганоў (Асецішчы Докшыцкага р-на, Домжарыцы, Ствольна Лепельскага р-на) і дзве вёскі з назвамі Волак і Завалочча. Л. В. Аляксееў і З. М. Сяргеева ў 1960 — пач. 1970-х г. праводзілі раскопкі курганных пахаванняў 10—12 ст. каля Друцкага В., які злучаў стараж.-рус. гарады Друцк (на р. Друць, прыток Дняпра) і Лукомль (на р. Лукамка, праз р. Усвейка, прыток Зах. Дзвіны), дзе таксама выяўлены розныя імпартныя рэчы (залачоныя пацеркі, бурштынавыя ўпрыгожанні, паліваная кераміка, чырвонагліняныя прычарнаморскія амфары, сярэбраны арабскі дырхем 10 ст.) і 2 манетна-рэчавыя скарбы сярэдзіны 11 ст. недалёка ад в. Стражавічы (гл. *Стражавіцкія манетна-рэчавыя*

*скарбы).* Пра існаванне В. паміж вярхоўямі Мухаўца і Піны, які злучаў рэкі басейнаў Балтыйскага і Чорнага мораў, сведчаць назва «Мухаўлокі» і адкрыты ў г. п. Антопаль Драгічынскага р-на скарб арабскіх дырхемаў сярэдзіны 10 ст. На магчымасць выкарыстання В. паміж прытокам Случы р. Морач і прытокам Нёмана р. Лоша ўказвае знаходка вял. скарбу зах.-еўрап. дэнарыяў, куфіцкіх дырхемаў і сярэбраных упрыгожанняў, ухаванага каля 1050 г. на месцы в. Дзягцяны (гл. *Дзягцянскі манетна-рэчавы скарб).* Стараж.-рус. В. выкарыстоўваліся не толькі ў гандл. і гасп. мэтах для перавозкі грузаў, але і княжацкімі дружынамі ў час паходаў.

*Літ.*: 46, 181, 369, 372, 389, 1090.
*В. Б. Перхайка.*

**ВО́ЛЬТЭР** Эдуард Аляксандравіч [6(19).3.1856, Рыга — 14.12.1941], археолаг, гісторык, этнограф, даследчык балтыйскіх і слав. народаў. Вучыўся ў Лейпцыгскім, Дэрпцкім (Тартускім) і Харкаўскім ун-тах. Прыват-дацэнт Петраградскага ун-та (1885—1918). У 1919—22 кіраўнік Нац. бібліятэкі Літвы ў Каўнасе, у 1922—33 праф. Каўнаскага ун-та і дырэктар Каўнаскага гар. музея. У «Календары Паўночна-Заходняга краю на 1890 год» змясціў артыкул «Статыстыка племяннога складу народанасельніцтва Паўночна-Заходняга краю». У канцы 1890-х г. з В. А. Шукевічам раскопваў стараж. могільнікі ў Бел. Панямонні *(Дварчаны, Апонайцы, Пузелі, Вензаўшчына),* збіраў археал. і этнагр. матэрыялы ў паўн.-зах. Беларусі.

*Тв.*: Археологические коллекции частных лиц в Северо-Западном крае. Вильна, 1889; О ятвягах // Ежегодник Русского антропологического общества при имп. С.-Петербургском ун-те. 1908. Т. 2; Город Мендовга, или где искать Летовию XIII века? // Изв. Отд-ния рус. яз. и словесности. 1909. Т. 14, кн. 3; Следы древних Пруссов и их языка в Гродненской губернии // Там жа. 1911. Т. 16, кн. 4.

*Літ.*: 1099, 1417. *М. В. Нікалаеў.*

**ВО́РАНЬ,** археал. помнікі каля в. Ворань Лепельскага р-на.

Паселішча-1 позняга *неаліту* і *бронзавага веку.* За 1—1,5 км на У ад вёскі, на правым беразе р. Вароніца, за 300—500 м на Пн ад упадзення яе ў воз. Ворань. Прыблізныя памеры 50×50 м. Выявіў у 1867 А. М. Семянтоўскі, абследавалі ў 1956 Л. В. Аляксееў, у 1972 А. Р. Мітрафанаў, у 1981 Ю. А. Заяц, даследаваў 100 м² у 1979 Э. М. Зайкоўскі. Культурны пласт каля 0,6 м.

Знойдзены прылады працы з светлашэрага крэменю: скрабкі, скрэблы, адшчэпы з падрэтушоўкай па краях, праколка, нажы, пласціны, тронкавы наканечнік стралы. Кераміка порыстая, з дамешкам у гліне тоўчаных ракавінак, пераважна неарнаментаваная, часам трапляюцца ўпрыгожанні ў выглядзе ямак, наколаў, зашчыпаў, адбіткаў тканіны, грабеньчатага штампа. Выяўлена таксама гладкасценная кераміка шэра-жоўтага колеру з дамешкам пяску ў гліне эпохі позняй бронзы, кераміка банцараўскай культуры і сярэднявечча.

Паселішча-2 позняга неаліту. За 1,7 км на У ад вёскі, 0,5 км ад воз. Ворань, на першай надпоймавай тэрасе левага берага р. Вароніца, ва ўрочышчы Малінаўка. Пл. каля 0,5 га. Выявіў і даследаваў 24 м² у 1979 Зайкоўскі. Культурны пласт 0,5—0,76 м.

Выяўлены крамянёвыя прылады працы (нож з трохграннай пласцінкі, бакавы скрабок на адшчэпе з невысокай спінкай, 3 нажападобныя пласцінкі і інш.), мікрануклеус, адшчэпы і дробныя сколы, фрагменты ляпной порыстай керамікі, частка якіх упрыгожана насечкамі. У верхнім пласце знойдзены абломкі ганчарнай керамікі.

Датуецца 3-м тысячагоддзем да н. э.



Востраканечнік.

Гарадзішча *штрыхаванай керамікі культуры.* За 3 км на З ад вёскі, у лесе, на беразе воз. Азяруты, ва ўрочышчы Рачаўшчына, на падоўжаным узгорку. Пляцоўка авальная, памерам 50×31 м, здзірванелая, парослая лесам і хмызняком. Схілы стромкія, выш. паўн.-зах. часткі 10—12 м, астатніх — 6—8 м. З паўн. і паўн.-зах. бакоў невял. тэраса шыр. каля 8 м, якая ляжыць ніжэй пляцоўкі на 5—6 м. Магчыма, гэта рэшткі апоўзлага вала і рова. Выявіў у 1867 Семянтоўскі, абследавалі ў 1931 А. М. Ляўданскі, у 1972 Мітрафанаў, у 1981 Заяц. Культурны пласт больш за 0,5 м. У паўн.-зах. частцы пляцоўкі закладзены шурф (0,25×0,25 м). Знойдзены фрагменты ляпнога посуду. Датуецца 4—1 ст. да н. э.

Селішча *банцараўскай культуры* і эпохі Кіеўскай Русі. За 1 км на У ад вёскі, на беразе безыменнай рэчкі, за 150 м на Пн ад месца ўпадзення яе ў воз. Ворань. Плошча каля 0,5 га. Выявіў у 1867 Семянтоўскі, абследавалі ў 1956 Аляксееў, у 1972 Мітрафанаў, у 1981 Заяц. Знойдзены абломкі ляпных гладкасценных і ганчарных пасудзін. Селішча ўзнікла на месцы стаянкі бронзавага веку. Датуецца 6—11 ст.

Курганны могільнік. За 0,5 км на У ад селішча. Ва ўрочышчы Аўсянікі (б. хутар). Больш за 100 круглых у плане насыпаў, каля 30 з іх вялікія, дыям. 20—25 м, выш. 4—5 м, астатнія дыям. 5—13 м, выш. 0,5—2,5 м. Выявіў і даследаваў у 1867 М. Ф. Кусцінскі, абследавалі ў 1972 Мітрафанаў, у 1981 Заяц. Пахавальны абрад — трупапалажэнне. Знойдзены сярэбраныя скроневыя кольцы з напускнымі паставымі пацеркамі, жал. нож, апрацаваныя рамяні. Датуецца 11—12 ст.

*Літ.*: 34, 391, 1075.
*Э. М. Зайкоўскі, А. Р. Мітрафанаў.*

**ВО́РНАЎКА,** гарадзішча мілаградскай і зарубінецкай культур каля в. Ворнаўка Кармянскага р-на. За 1,5 км на Пд ад вёскі, ва ўрочышчы Грэнск, на правым беразе р. Сож. Пляцоўка авальная, памер 66×73 м. З ПнЗ умацавана дугападобным валам даўж. 85 м і выш. 2,5 м. З Пд і ПдЗ прасочаны 2 валы даўж. 30—40 м, шыр. 4—6 м і равы глыб. 0,4—0,6 м. Вядома з канца 19 ст., даследавалі 220 м² у 1936 А. М. Ляўданскі і А. Дз. Каваленя, абследавалі ў 1957 В. М. Мельнікоўская, у 1969 У. Дз. Будзько і Я. А. Шмідт, у 1975 В. І. Шадыра. Культурны пласт 0,5—1 м.

Знойдзены прасліцы, падвеска, касцяная іголка, зерняцёрка, бронзавае кольца, абломак і цэлы жал. кельт, гладкасценная ляпная і арнаментаваная (палачкай, пазногцем, штрыхаваная або з расчосамі) кераміка. Выяўлены 2 каменныя агнішчы, больш 300 абпаленых камянёў, а таксама месцы выплаўкі жалеза, 2 ліцейныя формы, шлакі.

Датуецца 7—6 ст. да н. э.— 2 ст. н. э.

*Літ.*: 904, 1046. *В. І. Шадыра.*

**ВОСТРАКАНЕ́ЧНІК,** каменная рэжучая прылада працы з завостраным канцом, даўж. да 10 см. Выраблялі з крамянёвага адшчэпа, абабітага па краях. У Еўропе вядомы з эпохі мусцье (100—40 тыс. г. да н. э.). Выкарыстоўваўся для разбірання жывёлы, апрацоўкі скуры, вырабу драўлянай зброі і інш. Адрозніваюцца па форме (трохвугольныя, авальныя), па контуры рэжучага краю (прама-, пуката- і ўвагнуталязовыя), па палажэнні рэтушы (1- і 2-баковыя) і інш. На Беларусі вядомы толькі 2 В. мусцьерскага тыпу па знаходках у в. Свяцілавічы Веткаўскага р-на і *Бердыжы.*

*Літ.*: 918, 919.

**ВОСТРАЎ**, археал. помнікі каля в. Востраў Пінскага р-на.

Стаянка-1 неаліту. За 1 км на ПдЗ ад вёскі, на пясчаных узгорках левага берага р. Стыр. Даўж. 80 м. Выявіў і даследаваў у 1964 У. Ф. Ісаенка. Знойдзены рэшткі 2 жытлаў, грубаапрацаваныя пікападобныя сякеры, пласціністыя наканечнікі стрэл, скрабкі, мікралітычныя вырабы, абломкі гаршкоў *нёманскай культуры*. Датуецца 5—4-м тысячагоддзямі да н. э.




Крамянёвыя наканечнікі стрэл (1—5), разцы (6—10), вастрыі (11, 12, 17), скобля (13), нажы (14—16), трапецыі (18, 19, 22, 23), праколкі (20, 24, 26), устаўка (21), скоблі (25, 27, 28), скрабок (29), фігурны крэмень (30), сякера (31) са стаянкі-1 **Востраў**.

Стаянка-2 неаліту. За 1 км на ПнУ ад вёскі, на пясчаным узгорку левага берага р. Стыр. Даўж. 150 м. Выявіў і даследаваў у 1964 Ісаенка. Знойдзена каля 300 апрацаваных крамянёў і абломкаў ляпнога посуду. Датуецца 5—3-м тысячагоддзямі да н. э.

Стаянка-3 канца неаліту. За 0,5 км на ПдЗ ад вёскі, на астанцы першай надпоймавай тэрасы правага берага р. Стыр. Даўж. 60 м. Выявіў і даследаваў у 1965 Ісаенка. Знойдзены грубаабабітыя сякеры, трохвугольныя наканечнікі стрэл, фрагменты гліняных пасудзін. Датуецца 3-м тысячагоддзем да н. э.

Стаянка-4 ранняга *бронзавага веку*. За 0,5 км на У ад вёскі, уздоўж дарогі на в. Ласіцк. Даўж. 200 м. Выявіў і даследаваў у 1973 Ісаенка. Знойдзены крамянёвыя прылады працы і абломкі ляпных гаршкоў з вельмі бугрыстай паверхняй. Датуецца 3—2-м тысячагоддзямі да н. э.

Селішча жалезнага веку. За 1 км на З ад вёскі, на левым беразе старыцы р. Стыр, ва ўрочышчы Марфенец, на невысокім пясчаным узвышшы, на месцы паселішча каменнага веку. Памер 140×85 м. Абследаваў і раскапаў 296 м² у 1987 А. А. Егарэйчанка. На паверхні раскопу знойдзены жал. з утулкай наканечнік дроціка з падоўжана-рамбічным пяром і бочачкападобная сіняя пацерка з вочкам з празрыстага шкла, пад якім знаходзілася залатая фольга, вочка акантавана чорным, жоўтым і чырвоным кругамі. Культурны пласт 0,1—0,35 м. Знойдзены рэшткі трох зрубных пабудоў.

Першая няправільнай чатырохвугольнай формы, памер 3,1×2,5 м. Падлога роўная, паглыбленая на 0,15 м у мацярык. У паўн.-ўсх. куце жытла выяўлена вогнішча, абкладзенае кавалкамі жал. шлаку. Знойдзены вял. фрагменты 2 ляпных гаршкоў, абломак глінянага прасліца, жал. нож. Другая пабудова чатырохвугольная, памер 3×2,9 м. Падлога няроўная, у асобных месцах паглыбленая ў мацярык на 0,1 м. У падлозе побач са сцяной яма (дыям. 0,3 м, глыб. 0,4 м) ад слупа, які ўмацоўваў сцяну і падтрымліваў страху, у паўн.-зах. частцы жытла вогнішча, аналагічнае першаму. Знойдзены 2 біканічныя гліняныя праслíцы, больш за 100 абломкаў грубаляпных і 5 глянцаваных пасудзін. Трэцяя пабудова прамавугольная, памер 3,7×3,1 м, сцены паглыблены ў мацярык на 5—25 см. У вогнішчы, што знаходзілася ў паглыбленні пола (абкладзена кавалкамі жал. шлаку і абломкамі глінянага посуду), знойдзены развал вял. слабапрафіляванага гаршка, буйныя фрагменты верхніх частак і днішчаў некалькіх пасудзін. У памяшканні знойдзены абломак біканічнага глінянага прасліца, 14-кантовая пацерка з глухога сіняга шкла. Каля кожнай пабудовы знаходзіліся гасп. ямы дыям. 0,85—1,15 м, глыб. 0,1—0,2 м, у якіх знойдзены фрагменты ляпных пасудзін. Найб. шматлікая са знаходак ляпная кераміка: грубаляпная (слаба- і моцнапрафіляваныя гаршкі, арнаментаваныя нарэзкамі па краі венчыка, зашчыпамі на плечуках) і глянцаваная (міскі з тоўстымі сценкамі і нераўнамерна абпаленыя). Сярод асобных знаходак крамянёвы скрабок, круглае пляскатае праслíца, залачоныя і з глухога сіняга шкла пацеркі, 2 бронзавыя пранізкі, абломкі бронзавых і жал. рэчаў. Па-за межамі раскопу знойдзена шмат вырабаў з бронзы (спінка падвязанай фібулы 4 ст., трапецападобныя арнаментаваныя падвескі, пранізкі, ланцужкі), шкла (залачоныя, 14-кантовыя сінія, белыя з сінімі вочкамі, сінія з бірузовымі кольцамі пацеркі, сіні бісер і інш.; іл. гл. на стр. 280), жалеза (абломкі нажоў, рыбалоўны кручок, спражка і інш.), гліны, крэменю.

Селішча заснавана ў каменным веку, існавала да 5 ст. н. э., найб. інтэнсіўна выкарыстоўвалася плямёнамі мілаградскай і зарубінецкай культур у 2—4 ст. н. э.

*Літ.*: 460. *У. Ф. Ісаенка, А. А. Егарэйчанка.*

**ВОСЦІ**, старадаўняя рыбалоўная прылада; шматзубчасты вілападобны наканечнік, насаджаны на драўляны шост даўж. да 4 м. Зубцы (2—12) даўж. каля 0,25 м вострыя, на канцы са шчарбінамі, якія ўтрымлівалі рыбу на В. У стараж. часы рабілі драўляныя, касцяныя, пазней металічныя В. На Беларусі вядомы з неаліту.

**ВОТНЯ**, курганны могільнік радзімічаў каля в. Лазаравічы Быхаўскага р-на. Размешчана на паўн.




Сяміпрамянёвыя скроневыя кольцы (1, 2), скроневае кольца з дроту (3), пацеркі (4—7), лунніцы (8, 9), падвеска (10), пярсцёнак (11), драцяная спражка (12), срэбранік князя Уладзіміра (13) з могільніка **Вотня**.




Сярэбранае скроневае кольца (1), бронзавы віты бранзалет (2), жалезны нож з абмоткай тронак бронзавым дротам (3) з курганнага могільніка-1 **Воўкавічы**.

ускраіне вёскі, на правым беразе Дняпра, ва ўрочышчы Вотня. Даследавалі 2 курганы ў 1873 штабс-капітан Нячаеў, у 1880 — 13 курганоў А. С. Увараў. Пахавальныя абрады — трупаспаленне і трупапалажэнне на гарызонце. Знойдзены

4 *срэбранікі* Уладзіміра Святаславіча, дырхем Нуха ібн Мансура, сяміпрамянёвыя скроневыя кольцы, лунніцы, пярсцёнак, вітая грыўня і абломкі жал. грыўні, металічныя падвескі, пацеркі (сердалікавая, прызматычная, хрусталёвыя біпірамідальныя, шкляныя сінія) і інш. Датуецца канцом 10 — пач. 12 ст.

*Літ.:* 239, 1514.

*У. У. Багамольнікаў.*

**ВОЎКАВІЧЫ,** курганныя могільнікі каля в. Воўкавічы Талачынскага р-на.

Могільнік-1 *крывічоў.* За 200 м на Пн ад вёскі, на беразе р. Крывая. 30 насыпаў (захавалася 18) дыям. 5—12 м, выш. 1—3 м. Абследавалі ў 1958 Л. В. Аляксееў, у 1972 А. Р. Мітрафанаў, у 1981 Ш. І. Бекцінееў. У 1969 З. М. Сяргеева раскапала 2 курганы.

У першым пахавальны абрад — трупапалажэнне. Парнае пахаванне (мужчынскае і жаночае) арыентавана галавой на ПдЗ. Знойдзены рэшткі жал. абручоў ад драўляных вёдзер, жал. нажы (тронкі аднаго мелі абмотку з бронзавага дроту), бронзавыя віты бранзалет з завязанымі канцамі і пярсцёнак, сярэбранае скроневае кольца, пацеркі (85 бісерных, сінія зонная, цыліндрычная і лімонападобная). У другім пахавальны абрад — трупапаленне. Выяўлена вогнішча памерам 4×4 м з попелам, вуголлем, перапаленай зямлёй і вял. колькасцю дробных кальцыніраваных касцей (частка з іх конскія). Знойдзены ганчарны гаршчок з лінейным арнаментам і кляймом, жал. нож.

Датуецца 11 ст.

Могільнік-2. За 300 м на ПдЗ ад вёскі, абапал лясной дарогі. 21 курган дыям. 6—8 м, выш. 1—2 м, адзін дыям. 10 м, выш. 2,5 м. Выявіў і абследаваў у 1981 Бекцінееў.

Могільнік-3. За 300 м на ПдЗ ад могільніка-2. 22 курганы дыям. 4—10 м, выш. 0,5—2 м, 2 насыпы выш. 3 і 5 м. Выявіў і абследаваў у 1981 Бекцінееў.

*Літ.:* 34, 1089. *Ш. І. Бекцінееў, В. М. Ляўко.*

**ВУСЦЕ,** гарадзішча жал. веку і раннефеад. часу каля в. Вусце Аршанскага р-на. За 1,5 км на Пн ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадзец, на мысе правага карэннага берага Дняпра. Пляцоўка выш. 20 м, памер 50×40 м, з боку поля ўмацавана дугападобным валам выш. 1—4 м, з астатніх трох бакоў абмежавана ярамі глыб. да 20 м. Выявіў у 1929 С. А. Дубінскі, абследавалі ў 1971 Л. Д. Побаль, у 1981 М. І. Лашанкоў, даследавала 108 м² у 1990 В. М. Ляўко. Культурны пласт 0,4—2 м, мае 2 гарызонты.

У ніжнім гарызонце выяўленыя матэрыялы (ляпны посуд, нож з гарбатай спінкай, посахападобная шпілька) маюць аналогіі ў позназарубінецкіх помніках 2—3 ст. н. э. Верхняга Падняпроўя і Падзісення. Раскапана наземнае жытло (ускрытая частка 3,8×3,2 м) слупавой канструкцыі з заглыбленым на 0,5 м у падлогу круглаватым каменным ачагом дыям. 1,4 м і прыачаговая яма даўж. 1,4 м, шырынёй 0,1—0,3 м. Падлога з шчыльна ўтрамбаванай загартаванай цэглы, на 0,4—0,5 м прыўзнята над мацерыком. У запаўненні ачага знойдзены фрагменты ляпнога посуду позназарубінецкага часу. У верхнім гарызонце выяўлены матэрыялы эпохі Кіеўскай Русі (шкляныя бранзалеты, прадметы з жалеза, кераміка, праслiцы 10—13 ст.), а таксама матэрыялы 14 — 1-й пал. 16 ст.

Паводле стратыграфіі, вал насыпаны ў 14 ст., калі гарадзішча, верагодна, выконвала функцыі ўмацаванага замка.

*Літ.:* 330. *Ю. У. Каласоўскі, В. М. Ляўко.*

**ВУСЦЕ,** курганны могільнік каля в. Вусце Браслаўскага р-на. За 1 км на Пд ад вёскі, у лесе, злева ад дарогі на в. Казяны. 74 круглых і авальных насыпаў выш. 0,2—2,3 м, дыям. круглых 2—12 м. Авальныя выцягнуты па лініі З—У ці Пн—Пд. Раўкі мала прыкметныя. У 1893 Ф. В. Пакроўскі раскапаў 4 курганы, у 1972 абследаваў М. М. Чарняўскі, у 1982, 1986 і 1987 Л. У. Дучыц і В. І. Шадыра раскапалі 16 курганоў. Насыпы з жоўтага пяску з украпінамі дробнага вугалю, каля асновы попельныя праслойкі. Пахавальныя абрады — трупапаленне: на гарызонце (6 насыпаў), у мацерыковых ямах (3 насыпы, 2 з іх з упускнымі пахаваннямі каля вяршыні), каля вяршыні (1 насып); у адным кургане былі 3 пахаванні; трупапалажэнне на гарызонце (1 насып); 4 курганы без пахаванняў (у 3 з іх былі валуны на грунце).

Знойдзены нажы, сякеры, наканечнік кап'я, драцяны бранзалет, 2 грушападобныя бразготкі, шкляныя лімонападобныя і з вочкамі пацеркі, ланцужкі і ланцугатрымальнікі, трапецападобныя падвескі, жал. і бронзавая спражкі, падкowападобная фібула са спіралепадобнымі канцамі, ляпны і ганчарны посуд. Могільнік належаў балта-славянскаму насельніцтву, адлюстроўвае працэс асіміляцыі славянамі мясц. насельніцтва на зах. ускраіне Полацкага княства.

Датуецца 9—11 ст.

*Літ.:* 916. *Л. У. Дучыц, В. І. Шадыра.*

**ВУСЦЕ,** курганны могільнік полацкіх крывічоў каля в. Вусце Полацкага р-на. 29 курганоў, большасць круглыя ў плане, астатнія падоўжаныя. Даследаваў 1 падоўжаны курган у 1974 Г. В. Штыхаў. Пахавальны абрад — трупапаленне. Знойдзены ляпны гаршчок 9 ст.

*Літ.:* 1355.

**ВЫБАРАЧНЫ МЕТАД,** матэматычны метад, які прымяняецца ў статыстыцы, адзін з асн. метадаў археал. даследавання. Генеральная выбарка (усіх рэчаў) пэўнай археал. культуры прынцыпова недасягальная, зрэдку яна атрымліваецца пры поўных раскопках археал. помніка. Звычайна даследчык мае справу з малымі выбаркамі, атрыманымі пры частковых раскопках помніка, збіранні матэрыялу на паверхні, даследаванні некалькіх помнікаў, а таксама з музейнымі калекцыямі. Іх звычайна ачышчаюць ад выпадковых рэчаў, упарадкоўваюць па месцы раскопу, тыпах, памерах і інш. Аднак мяркуецца, што такія парушэнні, унесеныя гэтым выпадковасці былі невялікія і яны слаба адбіваюцца на дакладнасці працэнтных падлікаў пры ўмове, што выбарка дастаткова шматлікая. Статыстыка дазваляе даць ацэнку паўнаты выбаркі. Пачынаючы з некаторага аб'ёму, дакладнасць падліку працэнтнай долі аднатыпных рэчаў у генеральнай сукупнасці перастае істотна павялічвацца. Таму немэтазгодна імкнуцца да ўсё больш шматлікіх або генеральных выбарак. Занадта малыя выбаркі рэзка зніжаюць дакладнасць — на некалькі працэнтаў. У гэтых выпадках падлікі з дакладнасцю да працэнта, а тым больш долей працэнта губляюць сэнс. Працэнтныя падлікі маюць верагодны характар.

Напрыклад, калі выбарка складаецца з 35 рэчаў, становяцца недакладнымі падлікі працэнтнай долі ў комплексе вырабаў пэўнага тыпу, якая менш за 10 %. Для выбаркі, якая налічвае 100 рэчаў, губляе сэнс падлік долі аднатыпных вырабаў менш за 3 %. Каб дакладнасць падліку працэнтнай долі была больш за 1 %, патрабуецца выбарка 350 рэчаў і болей. Пры выбарцы 800 рэчаў дакладнасць 0,5 %. Падлічваць з дакладнасцю да дзесятых долей працэнта мэтазгодна толькі пры выбарках, большых за 3 тыс. прадметаў. Многія археал. факты выяўляюцца ў працэсе статыстычнай апрацоўкі матэрыялу і таму носяць верагодны характар.

*Літ.:* 543, 1243. *У. Ф. Ісаенка.*

**ВЫГОДА,** група стаянак каля в. Выгода Мастоўскага р-на. Выявіў і даследаваў у 1966 і 1978 М. М. Чарняўскі.

Стаянка-1. За 300 м на Пн ад вёскі, на выступе левабярэжнай надпоймавай тэрасы р. Зальвянка (цяпер тут жывёлагадоўчы комплекс). Знойдзены мезалітычныя крамянёвыя матэрыялы, абломкі танкасценных штрыхаваных гаршкоў бронзавага веку. На Пд ад стаянкі выяўлена крэменеапрацоўчая майстэрня з вял. колькасцю нуклеусаў.

Стаянка-2. За 500 м на ПнУ ад вёскі, на паўд.-зах. краі пясчанага ўзвышэння левабярэжнай поймы р. Зальвянка. Пл. 1000 м². Культурны пласт каля 0,4 м. Даследавана 40 м². Знойдзены аднапляцовачныя нуклеусы, крамянёвыя скрабкі на пласцінках і адшчэпах, цяслападобныя вырабы, скоблі і інш. прылады працы, а таксама

кераміка *нёманскай культуры* неаліту, кераміка *тшцінецкай культуры* бронзавага веку. Выяўлены печкакаменка і невял. ляпны гаршчок 7—8 ст.

Стаянка-3. За 250 м на ПнУ ад стаянкі-1, на зах. беразе старыцы Зальвянкі. Пл. каля 600 м². Выяўлены знаходкі часоў неаліту і бронзавага веку.

Стаянка-4. За 1 км на ПнУ ад вёскі. Пл. каля 200 м². Раскапана 40 м². Выяўлены крамянёвыя скрабкі на адшчэпах, нажы. праколкі, вузкаабушковыя сякеры, нуклеусы, кераміка бронзавага веку, абломкі ляпных гаршкоў *жалезнага веку*.

На ПнУ і У ад вёскі сустракаюцца рэшткі інш. паселішчаў са знаходкамі неаліту, бронзавага і жал. вякоў. *М. М. Чарняўскі.*

**ВЫЗНАЧЭННЕ ВІДАЎ**, метад археазаалагічных даследаванняў, заснаваны на выяўленні дыягнастычных прыкмет *віду* і па іх сукупнасці аднясенне данага экземпляра да пэўнага віду жывёл. Пры В. в. выкарыстоўваюць атласы і вызначальныя табліцы — ілюстраваныя апісанні касцей, дапаможнікі па параўнальнай анатоміі жывёл і эталонныя калекцыі касцей вядомых відаў. В. в.— першы і найб. важны этап даследавання знаходак рэштак касцей. У фауністычных астэалагічных калекцыях з раскопак археал. помнікаў на Беларусі можа быць вызначана больш за 20 відаў млекакормячых жывёлін.

*Літ.*: 260.

**ВЫЛЕВА**, археал. помнікі каля в. Вылева Добрушскага р-на.

Гарадзішча мілаградскай і зарубінецкай культур. На ўсх. ускраіне вёскі, на правым беразе р. Іпуць, ва ўрочышчы Гарадзец. Пляцоўка памерам 75×46 м, прамавугольная з закругленымі вугламі, выцягнута з ПнУ на ПдЗ. Выш. 9,5 м ад узроўню ракі. З боку поля ўмацавана 2 валамі (адзін разбураны пры будаўніцтве шашы, выш. другога 3—5 м, шыр. 8,5—13,5 м) і равамі. Вядома з 1873, абследавалі ў 1910 Е. Р. Раманаў, у 1957 І. І. Арцёменка і В. М. Мельнікоўская, у 1976 В. М. Ляўко. Культурны пласт 1,5 м. Знойдзены ляпная кераміка, ажурная бронзавая бляха з пятлёй для прымацавання да адзення, фрагменты керамікі бронзавага веку. Датуецца 7 ст. да н. э.— 2 ст. н. э.

Селішча ранняга жалезнага веку. Побач з гарадзішчам, з боку р. Іпуць. На пл. 0,5 км² выяўлены фрагменты ляпной керамікі.

Курганны могільнік. За 3 км на ПдУ ад вёскі, на левым беразе р. Іпуць, ва ўрочышчы Часнакова Балота. 40 насыпаў дыям. 8—17 м, выш. каля 1,5 м. Выявілі і даследавалі 12 насыпаў у 1910 М. М. Філонаў і Раманаў, у 1976 абследавала Ляўко. Выяўлены рэшткі пахавальных вогнішчаў, невыразныя сляды трупаспаленняў. Знойдзены 3 фрагменты ляпнога посуду бронзавага веку, кальцыніраваныя косці, абломкі гліпянай статуэткі, кераміка 8—6 ст. да н. э.

*Літ.*: 981, 1046. *В. М. Ляўко.*

**ВЫСОКАЕ**, курганны могільнік дрыгавічоў каля в. Высокае Валожынскага р-на. За 200 м на ПдЗ ад вёскі, справа ад дарогі ў в. Кашчэлічы. Каля 40 насыпаў дыям. 3—6 м, выш. 0,5—1,2 м. Многія пашкоджаны, каля асноў месцамі прасочваюцца кругавыя раўкі. Даследаваў 1 курган у пач. 20 ст. С. Яроцкі, абследаваў у 1985 Я. Г. Звяруга. Пахавальны абрад — трупапалажэнне. Пахавальны інвентар — ганчарны гаршчок і бронзавы пярсцёнак.

Знойдзены меч даўж. 75 см, скроневыя кольцы з заходзячымі канцамі, бронзавыя падвескі са слядамі пазалоты і геам. арнаментам, бронзавая пацерка дрыгавіцкага тыпу.

**ВЫСОЦКАЯ КУЛЬТУРА**, археал. культура познабронзавага і ранняжал. вякоў (10—6 ст. да н. э.), пашыраная на З Валыні — Пн Прыкарпацця (Львоўская і Цярнопальская вобл. Украіны). Паводле сцвярджэнняў археолага Ю. У. Кухарэнкі, помнікі В. к. трапляюцца ў межах Беларусі ў сярэднім цячэнні р. Гарынь і на р. Сцвіга. В. к. вылучана ў 1930-я г., назву атрымала ад могільніка каля с. Высоцкае Львоўскай вобл. Насельніцтва жыло на неўмацаваных паселішчах у паўзямлянкавых жытлах з агнішчамі або каменнымі пячуркамі ўсярэдзіне, займалася земляробствам і жывёлагадоўляй, вырабляла цюльпанападобныя і слоікавыя пасудзіны, біканічныя кубкі, міскі і чарпакі, гліняныя культавыя фігуркі птушак, карысталася бронзавымі, радзей жал. прыладамі працы і зброяй, а таксама каменнымі свідраванымі сякерамі, крамянёвымі сярпамі і наканечнікамі стрэл, бронзавымі ўпрыгожаннямі. Пахавальны абрад — трупапалажэнне, радзей трупаспаленне ў бескурганных, а на заключным этапе і ў курганных могільніках. В. к. склалася на мясц. аснове пад уплывам *лужыцкай культуры*, у сваю чаргу аказала пэўны ўплыў на *мілаградскую культуру* на раннім яе этапе. *С. Я. Расадзін.*

**ВЫШАДКІ**, археал. помнікі каля в. Вышадкі Гарадоцкага р-на.

Гарадзішча. На мысе воз. Вышадскае. Пляцоўка памерам 70×40 м, узвышаецца над вадой на 12 м, з зах. боку абмежавана балотам. Па краі гарадзішча захаваліся рэшткі вала выш. 0,5 м. Культурны пласт 1 м. Знойдзена ляпная кераміка, праслiцы (днепрадзвінскай і банцараўскай культур).

Курганны могільнік *крывічоў*. Недалёка ад гарадзішча, каля дарогі ў в. Целяшова. 207 курганоў, большасць з іх круглыя, дыям. 3—8 м, выш. 0,3—2,5 м (самы вялікі адпаведна 20 і 5 м), некаторыя падоўжаныя. У 1971 і 1980 Г. В. Штыхаў даследаваў 25 насыпаў. У 11 курганах пахавальны абрад — трупаспаленне, у 8 — трупапалажэнне ў падкурганных ямах (ёсць у труне), у 6 пахаванняў не было.

Курганы з трупаспаленнем амаль без пахавальнага інвентару, зрэдку трапляецца кераміка. Знойдзены бранзалетападобнае скроневае кольца, жал. бранзалет, шкляныя пацеркі. У адным малым насыпе было 300 фрагментаў бронзавых вырабаў (150 кавалкаў ад ланцужка), амулет у выглядзе фігуркі чалавека, трапецападобныя падвескі, буйныя спіралькі ад галаўнога ўбору, сердалікавыя, хрусталёвыя і шкляныя пацеркі, кавалак тыглія, ляпныя гаршкі з плечыкамі. У курганах з трупапалажэннем знойдзены абломак жал. сярпа, бронзавая падвеска-конік, шкляныя і алавяныя пацеркі, ганчарны посуд.

Датуецца 10—11 ст. *Г. В. Штыхаў.*

**ВЫШЫЎКА**, від дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, у якім узор ці выява выкананы ўручную іголкай, з дапамогай шыдэлка рознакаляровымі льнянымі, шарсцянымі, шаўковымі ніткамі, воласам, бісерам, каштоўнымі камянямі на тканінах, скуры, лямцы. На Беларусі В. вядома з глыбокай старажытнасці, прыёмы яе звязаны з ткацтвам і пляценнем. Паводле археал. даследаванняў. найб. стараж. ўзоры В. вядомы на скураным абутку 10—13 ст., выяўленым пры раскопках стараж. гарадзішчаў Брэста, Ваўкавыска, Мінска, Полацка і інш. Сярод знаходак у Брэсце, Віцебску, Гарадку, Мінску, Пінску, Полацку, Тураве, акрамя абутку, сустракаюцца вышываныя скураныя кашалькі, сумкі. футаралы нажоў і грабеньчыкаў. Малюнкі са спіралепадобных завіткоў, кружкоў, хвалістых і гладкіх палосак вышывалі шарсцянымі ніткамі сіняга, зялёнага, жоўтага і чырвонага колераў шыўком «вяровачка», «гусёк», «назад іголкай», сцяблінiстым. Найб. пашыраны матыў — выява крына, або геам. малюнак. Шаўковыя тканіны вышывалі малюнкамі з геам. фігур, птушак залатымі ніткамі (каўнер з *Лісна*. плашчаніца 11 ст. з Гродна), а льняныя і шарсцяныя — каляровымі, часам скручанымі ўдвая ніткамі. упрыгожвалі нашыўкамі з каляровых шнуркоў. Вядома В. пацеркамі (вянок з Чарэйскай воласці), дробнымі бронзавымі ўпрыгожаннямі (з Рагачоўскага р-на), бронзавымі спіралькамі і шкляным бісерам (фрагмент скураной вопраткі з *Вензаўшчыны*).

*Літ.:* 206, 520, 1086, 1238а. *Л. У. Дучыц.*

**«ВЯДАМОСЦІ НУМІЗМАТЫЧНА-АРХЕАЛАГІЧНЭ»** («Wiadomości numizmatyczno-archeologiczne», «Нумізматычна-археалагічныя ведамасці»), часопіс, орган Кракаўскага нумізматычнага т-ва. Выходзіў у Кракаве на польскай мове ў 1889—1939, апошні том у 1949. Друкаваў матэрыялы па нумізматыцы Вял. кн. Літоўскага і Рэчы Паспалітай.

**«ВЯДАМОСЦІ НУМІЗМАТЫЧНЭ»** («Wiadomości numizmatyczne», «Нумізматычныя ведамасці»), часопіс, орган польскіх археал. т-ва (1957—72), археал. і нумізматычнага т-ва (1972—80), Нумізматычнай камісіі Польскага археал. і нумізматычнага т-ва (з 1981). Выдаецца з 1957 у Варшаве штоквартальна на польскай мове. Змяшчае матэрыялы па нумізматыцы Вял. кн. Літоўскага і Рэчы Паспалітай.

**ВЯЗ,** стаянкі каменнага веку каля в. Вяз Пінскага р-на.

Стаянка-1. За 500 м на З ад вёскі, на паўд. беразе воз. Пагосцкае (цяпер пад дамбай вадасховішча). Даўж. 220 м, шыр. 80 м. Выявіў і даследаваў у 1969, 1987 У. Ф. Ісаенка. Культурны пласт да 0,2 м. Знойдзены рэшткі жытлаў, 270 крамянёвых прылад працы, фрагменты каля 20 гліняных гаршкоў і інш. Большасць знаходак *нёманскай культуры,* астатнія — *шнуравой керамікі Палесся культуры.* Датуецца 5—4-м тысячагоддзямі да н. э.

Стаянка-2 эпохі мезаліту. За 1 км на З ад вёскі, на востраве сярод вадасховішча. Даўж. 60 м. Выявіў і даследаваў у 1970, 1987 Ісаенка. Знойдзена 300 апрацаваных крамянёў, 35 крамянёвых прылад працы і інш., тыповых для мясц. макралітычнай культуры.

*Літ.:* 460.



Крамянёвыя наканечнікі стрэл (1, 2), коп'яў (4, 5), вастрыі (3, 6, 10, 11), серпападобныя нажы (7, 8), нажы (9, 13, 14), разец (12), скоблі (15, 16, 19—21), скрабкі (17, 18, 22), сякерка-адбойнік (23) са стаянкі-1 **Вяз.**

**ВЯЗЁНКІ,** рукавіцы з грубых шарсцяных нітак, звязаныя стараж. тэхнікай *іголкавага пляцення* з асобным размяшчэннем вял. пальца. Для іх вырабу выкарыстоўвалі тоўстыя роўныя ніткі, што надавала вырабу шаўкавісты бляск, а пукатая фактура ўскладняла візуальна малюнак пляцення. В. 13 ст. знойдзены пры раскопках у Брэсце (дзіцячая, трохвугольнай формы), Віцебску (памер 24×14 см, з правай рукі).

*Літ.:* 485.

**ВЯЗЫНКА,** гарадзішчы *штрыхаванай керамікі культуры* каля в. Вязынка Маладзечанскага р-на.

Гарадзішча-1. Мясцовая назва Замэчак. За 100—200 м на У ад вёскі, на левым беразе р. Вязынка, на пагорку выш. 6—7 м. Пляцоўка авальная, памерам 61×51 м. У 1952 абследаваў К. М. Палікарповіч, раскопкі правёў А. Р. Мітрафанаў на пл. 284 м². Гарадзішча было ўмацавана абарончай драўлянай сцяной, якая згарэла. Пазней насыпаны вал, на грэбені якога збудавана новая абарончая сцяна, таксама згарэла. Пасля трэцяга пажару пляцоўка расшырана, па краі насыпаны вал з пяску і суглінку, збудавана новая абарончая сцяна з гарызантальна пакладзеных бярвён дыям. 30—35 см, вертыкальна ўмацаваных слупамі. У 4—5 ст. з паўн.-зах. боку гарадзішча насыпаны вал і выкапаны роў, па краі пляцоўкі і на схілы падсыпаны тоўсты пласт пяску і суглінку.

У 2 буд. гарызонтах выяўлены рэшткі драўляных жытлаў: у ніжнім — вялікае, 4-вугольнае ў плане, 3-камернае (памяшканні пл. 48, 31 і 26 м², мелі падковападобныя агнішчы), у верхнім — жытлы, верагодна, мелі слупавую канструкцыю. Каля жытлаў размяшчаліся круглыя і авальныя ў плане ямы-паграбы. Знойдзены фрагменты глянцаванага і падглянцаванага посуду, абломкі венчыкаў рабрыстых і слоікавых пасудзін, жал. нож, сярпы, шылы, гліняныя нрасліцы, грузікі дзякоўскага тыпу.

Гарадзішча-2. За 500 м на ПнУ ад вёскі, на левым беразе канала Вілейска-Мінскай воднай сістэмы. Пляцоўка авальная, памерам 45×35 м, выш. 3,5—8 м, з даволі стромкімі схіламі, акрамя паўднёвага. Выявіў у 1954 Мітрафанаў, абследаваў у 1985 Я. Г. Звяруга. Знойдзена штрыхаваная кераміка, косці жывёл, абпаленыя камяні. Датуюцца 2—5 ст.

*Літ.:* 784, 785. *А. Р. Мітрафанаў, Я. Г. Звяруга.*

**ВЯЛАЎСК,** археал. помнікі каля в. Вялаўск Петрыкаўскага р-на.

Паселішча-1 палескага варыянта днепра-данецкай культуры (3-е тысячагоддзе да н. э.). За 1 км на ПдУ ад вёскі, на левым беразе р. Скалодзіна, на выш. 2—3 м над поймай і 3 м над узроўнем вады ў рацэ. Даўж. 120 м. Выявіў і даследаваў у 1965 У. Ф. Ісаенка. Культурны пласт 0,25 м. Знойдзены 150 апрацаваных крамянёў, 31 крамянёвая прылада працы, каля 180 фрагментаў 18—20 гліняных пасудзін, рэшткі вогнішча.

Паселішча-2 палескага варыянта днепра-данецкай культуры (3-е тысячагоддзе да н. э.). За 300 м на ПдУ ад паселішча-1, на правым беразе р. Скалодзіна, у месцы яе вытоку з воз. Глінніцкае. Даўж. каля 150 м. Выявіў і абследаваў у 1976 Ісаенка. Знойдзены крамянёвыя прылады працы і фрагменты керамікі.

Курганны могільнік 11—13 ст. За 2 км на ПнЗ ад вёскі, ва ўрочышчы Прыбітуха. 7 насыпаў выш. 0,8—1 м, дыям. 5—8 м. Адкрыў і даследаваў 3 курганы ў 1889 У. З. Завітневіч, абследавалі ў 1956 Ю. У. Кухарэнка, у 1976 Ісаенка, В. І. Шадыра. Пахаванняў пад насыпамі не выяўлена. Хутчэй за ўсё, гэта *кенатафы.*

*Літ.:* 460. *У. Ф. Ісаенка.*

**ВЯЛІКАЕ ГОРАДНА,** археал. помнікі жал. веку каля в. Вялікае Горадна Крупскага р-на.

Гарадзішча-1 мілаградскай і зарубінецкай культур. За 500 м на ПдЗ ад вёскі, на правым беразе р. Бобр, ва ўрочышчы Акоп. Пляцоўка памерам 70×40 м. Умацавана дугападобным валам выш. 2—5 м, шыр. 10—12 м, з боку поля — ровам шыр. 8—12 м, глыб. 2—4 м. Абследавалі ў 1936 А. Дз. Каваленя, у 1979 А. Г. Калечыц, даследаваў у 1987 Л. Д. Побаль. Культурны пласт 0,3—0,4 м, пашкоджаны. Знойдзены фрагменты гладкасценнай і штрыхаванай керамікі, гліняная абмазка.

Гарадзішча-2. За 1 км на ПдЗ ад вёскі, каля 500 м ад гарадзішча-1, на схіле высокага правага берага р. Бобр. Пляцоўка памерам 50×35 м. Умацавана з боку поля валам выш. да 5 м, шыр. да 12 м, і ровам шыр. 5—6 м, глыб. 2—2,5 м. Даследаваў у 1987 Побаль. Культурны пласт каля 0,6 м. Знаходак не выяўлена.

Курганны могільнік. За 1 км на Пн ад гарадзішча-1, каля могілак, 2 насыпы дыям. 6 і 8 м, выш. каля 1,5 м. Абследавала ў 1979 Калечыц. *Л. Д. Побаль.*

**ВЯЛІКАЕ ЗАРЭЧЧА,** стаянка ранняга мезаліту каля в. Вялікае Зарэчча Шклоўскага р-на. За 1,5 км на ПдУ ад вёскі, на другой надпоймавай тэрасе левага берага Дняпра. Памер 40×120 м. Выявіў у 1975, даследаваў 83 м² у 1980 і 1982

В. Ф. Капыцін. Культурны пласт 0,1 м. Знойдзены тронкавыя наканечнікі стрэл, канцавыя скрабкі, сярэдзінныя разцы. Датуецца 8—7-м тысячагоддзямі да н. э.

*Літ.;* 566, 578.

**ВЯЛІКІЯ ШЫЛАВІЧЫ**, група археал. помнікаў каля в. Вялікія Шылавічы Слонімскага р-на.

Селішча-1. За 100 м ад правага берага р. Шчара, ва ўрочышчы Папова Гара. Пл. 70×50 м. Выявіў у пач. 1970-х г. В. Р. Супрун, даследавалі ў 1986 М. М. Чарняўскі, у 1987—88 Н. В. Шаблюк. Культурны пласт 0,4 м. Выяўлена 80 нуклеусаў, 248 прылад працы, 2 вербалістыя наканечнікі стрэл, авальныя сякучыя прылады, ланцэтападобныя вастры, разцы, канцавыя скрабкі, скоблі, нажы, праколкі, фрагменты керамікі ранняга неаліту. Датуецца 6—4-м тысячагоддзямі да н. э.

Стаянка-1 *неаліту* і *бронзавага веку*. За 200 м на Пд ад вёскі, на краі надпоймавай тэрасы р. Шчара, ва ўрочышчы Палачышча. Адкрыў і даследаваў у 1963—64 Супрун, абследаваў у 1974 Чарняўскі. На паверхні сабраны ляпная кераміка, крамянёвыя скрабкі, ножападобныя пласціны, наканечнікі стрэл і коп'яў, нуклеусы і інш.

Стаянка-2 *нёманскай культуры*. На правым беразе Шчары, ва ўрочышчы Ніўкі. Памер 50×60 м. Адкрыў і даследаваў у 1963—64 Супрун, даследаваў у 1974 Чарняўскі. Культурны пласт да 0,5 м. Выяўлены крамянёвыя прылады працы.

Гарадзішча. За 1,5 км на ПнУ ад вёскі; на беразе р. Гараднянка, ва ўрочышчы Гарадок (Маргач). Пляцоўка авальная, памерам 15×10 м, узвышаецца над поймай на 8 м. Адкрыў у 1895 Ф. В. Пакроўскі, абследавалі ў 1963 Супрун, у 1974 Л. Д. Побаль. Культурны пласт 0,2 м. Знойдзены рэшткі зерняцёркі, абломкі гаршкоў, па форме падобных да посуду мілаградскай і зарубінецкай культур. Датуецца канцом 1-га тысячагоддзя да н. э.— пач. н. э.

Селішча-2. Побач з гарадзішчам, на беразе ручая Студзянец (правы прыток Шчары). Памер 300×50 м. Абследавалі ў 1973 В. Р. Супрун, у 1974 Л. Д. Побаль. Культурны пласт 0,2 м. Выяўлены кераміка з расчосамі 2—5 ст., фрагменты глянцаваных гаршкоў, ганчарны посуд эпохі Кіеўскай Русі.

Селішча-3. За 2 км на ПнЗ ад вёскі, на правым беразе Шчары. Пл. каля 1 га. Абследавалі ў 1963 В. Р. Супрун, у 1973 Л. Д. Побаль. На паверхні сабрана ляпная гладкасценная кераміка 6—8 ст.

Селішча-4. За 2,5 км на ПдУ ад вёскі, на левым беразе Шчары, на месцы стаянкі каменнага веку. Пл. каля 1 га. Абследавалі ў 1963 В. Р. Супрун, у 1974 Л. Д. Побаль. На паверхні сабраны фрагменты ляпной гладкасценнай керамікі 6—8 ст.

*Літ.:* 1139.

*Л. Д. Побаль, М. М. Чарняўскі, Н. В. Шаблюк.*

**ВЯЛЯЦІЧЫ**, група археал. помнікаў каля в. Вяляцічы Барысаўскага р-на.

Селішча 6—10 ст. За 400—500 м на Пд ад вёскі, на левым беразе р. Нача пры ўпадзенні яе ў р. Бобр. Пл. каля 1 га. Культурны пласт таўшч. 0,2 м, знойдзена ляпная і ганчарная кераміка, жал. нож, фрагмент глінянага прасліца, а таксама рэчы больш ранняга часу — загатоўка для крамянёвай стралы, крамянёвы скрабок.

Могільнік-1. За 450 м на Пд ад вёскі, ва ўрочышчы Перавоз. 12 насыпаў дыям. 5—9 м, выш. 0,5—1 м. У 1979 абследаваў, у 1986 раскапаў 3 курганы Ю. А. Заяц. Пахавальны абрад — трупаспаленне і трупапалажэнне на мацерыку. Рэшткі крэмацый знаходзіліся ў вяршыні насыпу. Знойдзены жал. прамавугольная спражка і фрагмент бронзавага ўпрыгожання. У кургане з трупапалажэннем парнае пахаванне размешчана на попельнай пляме ад рытуальнага вогнішча, арыентавана на З і ПнЗ. Знойдзены шкляныя залачоныя бочачкападобныя і рабрыстыя з кружковым арнаментам, бронзавая кручаная пацеркі, медны бранзалет з круглага дроту, жал. нож. Датуецца 10—11 ст.



Крамянёвыя наканечнікі (1, 2), трапецыі (3—6), мікрапласцінкі з рэтушшу (7—10, 12), сегмент (11), ланцэтападобныя вастры (13—18), скрабкі (19, 20, 24—27), разцы (21—23), нож (28), скоблі (29, 30), нуклеус (31), рубячыя прылады (32, 33) з паселішча **Вялікія Шылавічы.**

Могільнік-2. За 250 м на У ад паўд. ускраіны вёскі. 4 насыпы дыям. 8—10 м, выш. 0,8—1,5 м.

Могільнік-3. За 3 км на ПдУ ад вёскі, на левым беразе р. Бобр, ва ўрочышчы Старая Маталыга. 2 насыпы дыям. 5 і 10 м, выш. 0,8 і 1,5 м. Адкрыў у 1986 Заяц.

Могільнік-4. За 2 км на ПдЗ ад вёскі, на левым беразе р. Бобр, ва ўрочышчы Пецкі Бор, 30 курганоў дыям. 6—14 м, выш. 1—2,5 м. Адкрыў у 1986 Заяц.

*Літ.*: 1362. *Ю. А. Заяц.*

**ВЯРГЕЙ** Валянціна Сяргееўна (н. 28.9.1946, г. Петрыкаў Гомельскай вобл.), беларускі археолаг. Канд. гіст. навук (1984). Скончыла БДУ (1968). Працавала ў БДУ (1969—71), Гродзенскім педагагічным ін-це (1971—75), з 1978 у Ін-це гісторыі АН Беларусі. Асн. кірунак навук. дзейнасці — гістарыяграфія археалогіі Беларусі і гісторыя насельніцтва Бел. Палесся ў жал. веку. Выявіла і абследавала каля 100 археал. помнікаў на Бел. Палессі. Даследавала паселішчы *Лемяшэвічы, Курадава, Гарадзішча, Сошна* (Пінскі р-н), *Струга* (Столінскі р-н) і інш. Адна з аўтараў кнігі «Беларуская археалогія» (1987).

*Тв.*: Белорусское археологическое краеведение двадцатых годов // Материалы науч. конф. молодых историков Литвы и Белоруссии... Вильнюс, 1977; Вывучэнне палеаліту ў Беларусі // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1981. № 4; Первые шаги советской археологической науки в БССР // Древности Белоруссии и Литвы. Мн., 1982; Жилища славянских поселений второй половины 1 тыс. н.э. в Белорусском Полесье // Проблеми історії та археології давнього населенія Української РСР. Київ, 1989; Археалагічная навука ў Беларускай ССР, 1919—1941 гг. Мн., 1992.

**ВЯРЭНЬКА** Францішак Леапольдавіч (15.3.1862, б. маёнтак Пуцілкавічы Ушацкага р-на — 4.3.1892), беларускі археолаг і краязнавец. Скончыў гімназію ў Мінску (1881), Варшаўскі ун-т (1887). У 1886 за навук. працу па нар. медыцыне ўзнагароджаны залатым медалём. Запісваў легенды і паданні роднага краю. У ваколіцы в. Пуцілкавічы выявіў 9 гарадзішчаў жал. веку і каля 50 курганных груп раннефеад. часу (раскапаў 36 курганоў). Рукапісы прац пра гэтыя даследаванні «Курганы ў Пуцілкавічах (1887—1892)», «Курганы і два дагістарычныя пасяленні ў Пуцілкавічах», археал. карты і частка раскопак зберагаюцца ў Кракаўскім археал. музеі.

*Літ.*: 897, 1493.

**ВЯРЭНЬКА,** каробка (часам заплечная), плеценая з палос бяросты, лубу, для пераносу прадуктаў, збору грыбоў, ягад. Мела прадаўгаватую ці авальную форму з ручкай і вечкам або без яго. Знойдзена пры раскопках у Мінску, Віцебску ў культурным пласце 17 ст.

**ВЯЦІЧЫ,** усходнеслав. племя, якое жыло на У ад *крывічоў, радзімічаў, северан* у бас. Акі. Паводле летапісных крыніц, В. прыйшлі з ляшскіх (прапольскіх) зямель і правадыры радзімічаў і В. (Радзім і Вятка) былі братамі, якія са сваімі родамі аселі — Радзім на Сажы, Вятка на Ацэ. Выяўленыя гарадзішчы і паселішчы В. належаць да 8—10 ст., з патрыярхальна-радавым ладам жыцця. З 11 ст. развіваліся феад. адносіны. У 12 ст. землі В. падзелены паміж суздальскімі і чарнігаўскімі князямі, у 14 ст. ўвайшлі ў склад Маскоўскага вял. княства. Курганы В. 8—10 ст. з трупаспаленнем у 11—12 ст. выцясняюцца пахаваннямі з трупапалажэннем галавой на З. Археалагі звяртаюць увагу на падабенства радзіміцкага і вяціцкага жаночага ўпрыгожання (племянная адзнака) — сяміпрамянёвага скроневага кальца.



В. С. Вяргей.



**Вярэнька** з лазы. 17 ст. Мінск. Рэканструкцыя Г. В. Штыхава.

# Г

**ГАВОРСКІ** Ксенафонт Антонавіч [1821, Кіеў—17(29).6.1871], беларускі і рус. археолаг, гісторык. Скончыў Пецярбургскую духоўную акадэмію (1845). Працаваў выкладчыкам Полацкай духоўнай семінарыі. У 1857—58 рэдагаваў неафіцыйную частку «Витебских губернских ведомостей», у 1862—69 рэдактар-выдавец час. «Вестник Западной России». У пач. 1850-х г. даследаваў 10 курганоў на Полаччыне, упершыню апісаў іх будову (трупаспаленне на гарызонце, пахаванне рэштках спалення ў ляпной урне ў насыпе). Вывучаў стараж. «Альгердаву» дарогу з Полацка на Вільню, некалькі гарадзішчаў, на якіх апісаў могільнікі больш позняга часу, вызначыў рэшткі стараж. пабудоў Полаччыны.



К. А. Гаворскі.

*Тв.*: Поездка (14 сент. 1852) из г. Полоцка по направлению, так называемой, Ольгердовой дороги; Археологические розыскания в окрестностях г. Полоцка // Зап. имп. Археологического о-ва. Спб., 1853. Т. 5; Древние акты и документы XVI и XVII века... преимущественно относящиеся до Западного края, с примеч. и объяснен. // Витебские губернские ведомости. 1858. № 3—8, 12—14, 22—28, 35, 38; Исторические сведения о Полоцком Софийском соборе. С двумя отрывками из неизданной Истории Полоцкой епархии // Там жа. 1858. № 39—52; Историческое описание полоцкого Борисоглебского монастыря // Вестн. Западной России. 1865. Кн. 5, ноябрь.

*Літ.*: 44, 513, 1270. *Г. А. Каханоўскі.*

**ГАДЗІЛАВІЧЫ,** курганны могільнік радзімічаў каля в. Гадзілавічы Рагачоўскага р-на. Размешчаны за 1,5 км на ПнЗ ад вёскі,

на левым беразе Дняпра. Захавалася 124 (было каля 400) насыпы дыям. 5—12 м, выш. 0,5—2 м. Вядомы з 1873, абследавалі ў 1892 М. В. Фурсаў і С. Ю. Чалоўскі, даследавалі ў 1930 А. М. Ляўданскі, у 1964 Г. Ф. Салаўёва, у 1981 А. М. Плавінскі і В. Н. Рабцэвіч. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на грунце на рытуальным вогнішчы галавой на З (часам з невял. адхіленнем на ПдЗ), у адзінкавых выпадках на У. Адметная рыса пахаванняў — попельнавугальнае («вогненае») кальца вакол многіх касцякоў.

Знойдзены нажы, крэсівы, бранзалеты, пярсцёнкападобныя і 7-прамянёвыя скроневыя кольцы, фібулы, сярэбраны псеўдавіты пярсцёнак, бронзавыя паясныя кольцы, разнастайныя і шматлікія шкляныя (пазалочаныя, пасярэбраныя бочачкападобныя, зонныя, малінападобныя, бісер) і сердалікавыя пацеркі, вітая грыўня, бразготкі, медныя пярсцёнкі, бронзавыя падвескі — пятлістыя і манетападобныя (некаторыя з выявай галавы быка), лунніцы, сярод фрагментаў ганчарнай керамікі выяўлены 2 цэлыя гаршкі выш. 10 см: на адным з іх лінейны і хвалісты арнамент, у другога на днішчы кляймо — круг з крыжам. Частка курганоў без рэчаў, у адным разбураным пахаванне не знойдзена.

На думку Салаўёвай, група мужчынскіх пахаванняў — некропаль дружыннікаў (тут выяўлены бронзавыя паясныя бляшкі, якія маюць аналагі ў рэчах Гнёздаўскага могільніка дружыннікаў каля Смаленска). Датуецца 10—12 ст.

Побач з могільнікам каля старога рэчышча Дняпра існавала паселішча эпохі Кіеўскай Русі.

*Літ.*: 324, 718, 887, 1118.

*А. М. Плавінскі, Г. Ф. Салаўёва.*

**ГАДЛО́ЎСКІ** (Godlowski) Казімеж (н. 9.12.1934, Кракаў), польскі археолаг-славіст. Д-р археалогіі (1969), праф. (1977). Скончыў Ягелонскі ун-т у Кракаве (1955). З 1976 дырэктар Ін-та археалогіі Ягелонскага ун-та, з 1988 праф. Венскага ун-та. Вывучае гісторыю стараж. славян на тэр. Польшчы і за яе межамі, выкарыстоўваючы агульнаеўрап. археал. матэрыялы жал. веку, у т.л. Беларусі (з раскопак *Чапліна, Адаменкі, Тайманава, Веляміч* і інш.). Падтрымлівае сувязі з археолагамі Ін-та гісторыі АН Беларусі і БДУ, якія ўдзельнічалі ў яго раскопках.

*Тв.:* Archeologia pierwotna i wczesnośredniowieczna. Cz. 4. Okres lateński w Europie. Kraków, 1977; Z badań nad zagadnieniem rozprzestrzenienia Słowian w V—VII w.n.e. Kraków, 1979; Przemiany kulturowe i osadnicze w południowej i środkowej Polsce w młodszym okresie przedrzymskim i w okresie rzymskim. Wrocław etc., 1985.

**ГАЙКО́ЎКА,** паселішча позняга мезаліту (5-е тысячагоддзе да н. э.) каля в. Гайкоўка Касцюковіцкага р-на. За 500 м на ПдЗ ад вёскі, у басейне р. Беседзь, на схіле ўрочышча Печанеж. Выявіў у 1926, даследавалі ў 1930 К. М. Палікарповіч, у 1972 В. Ф. Капыцін. Ускрыта 265 м². Культурны пласт залягае пад ворывам на глыб. 0,4—0,5 м.

Знойдзена больш за 2000 прадметаў крамянёвага інвентару: тронкавыя наканечнікі стрэл, бакавыя, вуглавыя і сярэдзінна-вуглавыя разцы, канцавыя, паўкруглыя і двайныя скрабкі, скрэблападобныя прылады, авальныя сякеры і цёслы, пласціны-ўкладышы, вырабы з выемкамі, праколкі і вастрыі. Апрацоўка крэменю адбывалася непасрэдна на паселішчы, пра што сведчыць вялікая колькасць нуклеусаў, пласцін і адшчэпаў.

*Літ.*: 575, 864, 866. *В. Ф. Капыцін.*



Жаночыя ўпрыгожанні з курганнага могільніка Гадзілавічы.




**Гайцюніпскі дом-крэпасць.** План.

**ГАЙЦЮНІШСКІ ДОМ-КРЭПАСЦЬ,** помнік грамадзянскага будаўніцтва пач. 17 ст. Узведзены ў в. Гайцюнішкі Воранаўскага р-на ў 1611—12 з цэглы па ўласным праекце ўладальнікам, будаўніком і начальнікам каралеўскіх збудаванняў у Вільні П. Нонхартам сумесна з інжынерам-фартыфікатарам Ван Дадэнам на паўд. ускраіне вёскі на левым беразе р. Жыжма. Пабудову абкружалі абарончыя збудаванні бастыённага тыпу і роў, запоўнены вадой.

Будынак прамавугольны ў плане, двухпавярховы пад высокім вальмавым дахам. Па цэнтры гал. фасада размешчана трохпавярховая прамавугольная ў плане вежа. Пазней да яе прыбудаваны ганак у выглядзе невысокага кубічнага аб'ёму з арачнымі праёмамі і тэрасай наверсе. Па вуглах будынка размешчаны цыліндрычныя вежы з шатровымі завяршэннямі і вузкімі вокнамі-байніцамі. У 1986 помнік даследавала архіт.-археал. экспедыцыя Спец. навукова-рэстаўрацыйных вытворчых майстэрняў (цяпер Бел. рэстаўрацыйна-праектны ін-т). Даследаваннямі ўстаноўлена, што падмуркі надуваходнай і вуглавых вежаў не заглыблены ў мацерыковы грунт. Падмурак асн. будынка дастаткова глыбокі. Гэта звязана з наяўнасцю падвалаў, перакрытых цаглянымі скляпеннямі, і высокім узроўнем грунтавых вод, што паўплывала на выкарыстанне ў муроўцы і пры будаўніцтве падпорных слупоў у падвалах толькі камянёў, змацаваных вапнавай рошчынай. Падмуркі ў аснове прыблізна на 1 м шырэйшыя за цагляныя сцены будынка, што таксама звязана з балоцістым характарам мясцовасці. У будаўніцтве выкарыстоўвалася

цэгла-пальчатка памерам 29,3×15×6—7 см. Камяні падмуркаў маюць у папярочніку 20—30 см, закладзеныя бліжэй да асновы — каля 50 см. У шурфе, закладзеным на сярэдзіне тыльнага фасада будынка, знойдзены рэшткі мурдоўкі з камянёў і цэглы на вапнавай рошчыне. Таўшчыня цаглін (5—5,5 см) і выяўленыя фрагменты кафляў даюць падставы меркаваць, што прыбудова да замка была зроблена ў 2-й пал.— канцы 17 ст. Знойдзены фрагменты пляскатых дахоўак таўшч. 1,5 см, якімі накрывалі будынак. Дом-крэпасць — прыклад пабудовы загараднай рэзідэнцыі ў выглядзе мініяцюрнага замка. *І. М. Чарняўскі.*

**ГАКАЎНІЦА,** агнястрэльная зброя, прызначаная для абароны замкавых і гар. умацаванняў. Паявілася ў канцы 14 ст. ў выніку ўдасканальвання ручной стрэльбы, найперш — дастасавання гака, які аслабляў аддачу ў момант стрэлу. На Беларусі найб. распаўсюджаная ў 15—17 ст. Даўж. Г. 1,5—1,8 м, вага да 25 кг. Стралялі жал. і алавянымі кулямі дыям. 2—2,6 см, «падвойныя» Г.— 3—3,3 см. Парахавы зарад запальваўся з дапамогай гарачага металічнага стрыжня, пазней кнота, з 16 ст.— кнотавага замка.

*Літ.*: 1159, 1458.

**ГАЛАСНІКІ,** керамічныя пасудзіны ў выглядзе высокага збана з доўгім вузкім горлам, якія ўмуроўвалі ў сцены і скляпенні храмаў горлам у інтэр'ер. Г. паляпшалі акустыку памяшкання, аблягчалі мураваную сцяну. На Беларусі вядомы з 12 ст., выкарыстаны ў муроўцы сцен *Гродзенскай Барысаглебскай царквы* і *Гродзенскай Ніжняй царквы.*

*Літ.*: 206.

**ГАЛАЎНЫЯ ЎБОРЫ,** састаўная частка *адзення.* У мінулым маглі адлюстроўваць сацыяльнае становішча чалавека, а жаночыя — і сямейнае. Паводле археал. знаходак найб. раннія Г. ў. вядомы з эпохі неаліту — скураныя ці футравыя шапачкі, часам упрыгожаныя бурштынавымі гузікамі. У раннім жал. веку насілі шапачкі накшталт балцкіх, упрыгожаныя спіралепадобнымі ці вочкападобнымі падвескамі. Г. ў плямён зарубінецкай і мілаградскай культур нагадвалі скіфскія і сармацкія (у жанчын — чапец і пакрывала, расшытае пацеркамі). Найб. даследаванымі з'яўляюцца Г. ў. часоў Кіеўскай Русі. Дзяўчаты насілі вянкі з бяросты ці лубу, абшытыя скурай або тканінай (в. Аўсяннікі на Магілёўшчыне), часам з шаўковай тасьмой, металічнымі венчыкамі (Радашковічы). Упрыгожвалі іх вышыўкай ніткамі, шклянымі пацеркамі, зрэдку залачонымі бляшкамі (Навагрудак, *Камена,* в. Жукавец Бярэзінскага р-на). Вясельныя Г. ў. выяўлены каля царквы 12 ст. ў Мінску: вянок з кветак, з расшытым ачэллем на бяросце, рэшткамі лёгкай тканіны. Жанчыны на сколатыя валасы надзявалі чапец, шапачку, кіку, аснову якіх рабілі з бяросты ці лубу, абцягвалі тканінай ці скурай (*Узноснае, Дзям'янкі*), расшывалі, як і дзявочыя вянкі. Да Г. ў. жанчын і дзяўчат прымацоўвалі *скроневыя кольцы.* Для балцкіх плямён 7—13 ст. характэрны жаночы галаўны вянокупрыгожанне — вайнага. З іх найб. пашыраныя лентападобныя з 3—6 радоў бронзавых спіралек уперамежку з бронзавымі пласцінамі, нанізанымі на тонкія лыкавыя жгуты (*Укля,* Навінка). У 11—12 ст. вянкі дапаўняліся трапецападобнымі падвескамі і званочкамі. На ПнЗ Беларусі жанчыны насілі шапачкі, упрыгожаныя спераду металічнымі пласцінкамі (*Апонаўцы, Пузелі, Вензаўшчына*), наміткі (зашпільвалі булаўкамі), павой, убрус (накшталт сучасных шаляў), якія выраблялі з розных тканін белага ці чырвонага колераў, упрыгожвалі вышыўкай, нашывалі металічныя бляшкі рознай формы (*Казлоўцы*). Простыя гараджанкі насілі ачэлле з двух сагнутых драўляных валікаў, абшытых тканінай, на якой замацоўвалі да 20 металічных дужак, заможныя на шалі надзявалі шапкі, аздобленыя футрам. Мужчыны насілі суконныя ці лямцавыя каўпакі з нізкім паўкруглым, конусападобным верхам, з аколышам, часта абшытыя футрам (Брэст, Полацк), а таксама выявы на шахматных фігурках з Лукомля, Гродна, Ваўкавыска.



**Галаснік** 12 ст. Гродна.

*Літ.*: 660, 780, 1026, 1028.
*Л. У. Дучыц.*

**ГАЛАЦІЧАСК,** старажытны горад Полацкай зямлі. Упамінаецца ў «Аповесці мінулых гадоў» пад 1071: «Пабедзі Яраполк Усеслава ў Галацічьска». Месцазнаходжанне яго не выяўлена. Даследчыкі атаясамлівалі Г. з в. Галоўчын Бялыніцкага і Голацк Пухавіцкага р-наў. Але рэшткі стараж. горада там не знойдзены.

*Літ.*: 46, 906, 1346.

**ГАЛАЦЭН** (грэч. holos увесь+kainos новы), позналедавіковая эпоха, апошні яшчэ не завершаны адрэзак *антрапагену* (чацвярцічнага перыяду) у геалагічнай гісторыі Зямлі, сучасная геалагічная эпоха.

Пачаўся прыкладна 10 тыс. г. таму назад, калі ў сувязі са значным пацяпленнем валдайскі ледавік канчаткова адышоў, пакінуўшы шырокі пояс марэнных узвышшаў ад сярэдняй Швецыі, праз катлавіну Балтыйскага мора да ПдУ Фінляндыі. Да пач. Г. склаліся ўсе кампаненты сучасных ландшафтаў, вызначылася сучасная занальнасць расліннага свету, адбыліся значныя змены ў складзе жывёльнага свету (вымерлі маманты, шарсцістыя насарогі і інш.). Паводле схемы Бліта-Сернандэра, распрацаванай для Скандынавіі і Прыбалтыкі, Г. падзяляюць на 5 перыядаў: передбарэальны (10 200—9500 г. таму назад) — пераход ад арктычных і субарктычных умоў позналедавіковыя да ўмерана цёплага клімату; барэальны (9500—8000 г. таму назад) — паступовае пацяпленне і пераход ад самага халоднага этапу Г. да яго оптымуму; атлантычны (8000—5000 г. таму назад) — цёплы і вільготны оптымум Г.; суббарэальны (5000—2200 г. таму назад) — умераны і сухі клімат; субатлантычны (ад 2200 г. да сённяшніх дзён) — умераны і вільготны клімат. Большасць даследчыкаў вылучаюць у Г. 3 этапы развіцця клімату, расліннасці і жывёльнага свету: ранні, сярэдні і позні. Ранні адпавядаў передбарэальнаму і барэальнаму перыядам. У гэты час раслі бярозавыя і бярозава-хваёвыя, пазней мяшаныя хвойна-шыракалістыя лясы, знік паўн. алень, пашырыліся лось, бабёр, казуля.

Пачатак ранняга Г. лічаць мяжой *палеаліту* і *мезаліту,* на працягу этапу (у эпоху мезаліту) адбылося засяленне чалавекам тэр. Беларусі. Сярэдні Г. адпавядае атлантычнаму і суббарэальнаму перыядам. У гэты час пачалося развіццё хваёвых і мяшаных хвойна-бярозавых лясоў, пашырыліся таежныя прадстаўнікі жывёльнага свету, а таксама зубр, казуля, барсук і інш. Канец 1-й пал. сярэдняга Г. з'яўляецца мяжой мезаліту і *неаліту,* у 2-й пал. суббарэальнага перыяду пачаўся *бронзавы век,* узніклі і развіваліся прымітыўныя земляробства і жывёлагадоўля. Позні Г. адпавядае субатлантычнаму перыяду. У гэты час павысіўся ўзровень вады ў азёрах, паскорыўся працэс забалочвання і намнажэння торфу, пераважалі яловыя, хваёвыя і мяшаныя хвойна-бярозавыя лясы. На тэр. Беларусі адклады Г. складаюць ад некалькіх дзесяткаў см да 20—25 м. З імі звязаны радовішчы торфу, прэснаводныя, вапнавыя адклады, сапрапелі, балотныя жал. руды і інш.

*Літ.*: 760, 1261. *А. Г. Калечыц.*

**ГАЛІНОВА,** археал. помнікі каля в. Галінова Вілейскага р-на.

Гарадзішча. За 1,5 км на ПнУ ад вёскі, у лесе, на мысе прыроднага ўзвышша. Мясц. назва Скабеева Гара. Пляцоўка дыям. 55 м, па краі ўмацавана валам выш. да 3 м. З зах. і ўсх. бакоў ёсць дадатковыя дугападобныя валы выш. 1,5—2 м. Выявіў і абследаваў у 1850-х г. А. К. Кіркор, абследавалі ў 1980 А. Р. Мітрафанаў, у 1985 Я. Г. Звяруга.

Курганны могільнік-1, магчыма, балтаў. За 200 м на ПнУ ад гарадзішча, абапал дарогі ў в. Студзёнкі. Мясц. назва Валатоўкі. 77 круглых насыпаў, якія цягнуцца вузкай палосай з ПдЗ на ПнУ на 500 м. Дыям. насыпаў 5—11 м, выш. 0,6—1,7 м. Каля большасці насыпаў захаваліся кругавыя раўкі. Амаль трэцяя частка курганоў пашкоджана. 15 курганоў у 1934, 1937 даследавалі Г. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіч, абследаваў у 1985 Звяруга. Пахавальны абрад — трупаспаленне на гарызонце. Пахавальны інвентар — жал. нажы, фібулы, спражкі, тачыльныя камяні, бранзалеты з бронзы, трапецападобныя і круглыя падвескі, абломкі грыўняў, ляпныя слабапрафіляваныя гаршкі і пасудзіны слоікавай формы. Датуецца 7—10 ст.

Курганны могільнік-2. За 400 м на ПнУ ад могільніка-1. Тры расплывістыя насыпы дыям. 7—9 м, выш. 0,7—0,9 м. Выявіў і абследаваў у 1985 Звяруга.

*Літ.*: 272, 1435. *Я. Г. Звяруга.*

**ГАЛКІ,** археал. помнікі каля в. Галкі Брагінскага р-на.

Стаянка эпохі неаліту. За 250 м на ПдЗ ад вёскі, на пясчаным узвышшы першай надпоймавай тэрасы правага берага Дняпра. Выявіў і даследаваў 100 м² у 1977 У. П. Ксяндзоў. Культурны пласт 0,2 м, пашкоджаны ветравой эрозіяй. Знойдзены крамянёвыя адшчэпы і ножападобныя пласціны з плоскай рэтушшу, ляпная танкасценная кераміка з гарызантальнымі радамі насечак і адбіткамі палачкі на венчыках. Датуецца 5—3-м тысячагоддзямі да н. э.

Селішча ранняга *жалезнага веку* і эпохі Кіеўскай Русі. За 0,5 км на У ад вёскі, ва ўрочышчы Стонча. Пл. 1,5 га. Выявіў у 1929 І. Х. Юшчанка, абследаваў у 1975 В. Е. Собаль. Культурны пласт 0,2—0,4 м. Знойдзена ляпная і ганчарная кераміка.

**ГАЛОЎСК,** група стаянак каменнага і бронзавага вякоў каля в. Галоўск Сенненскага р-на. Размешчаны на паўд. ускраіне тарфяніка Крывіна.

Стаянка Крывіна-1. За 0,8 км на ПнЗ ад вёскі, на паўд.-ўсх. краі выспы Ворлева, на левабярэжжы р. Крывінка. Выяўлена ў пач. 1930-х г. пры асушэнні тарфяніка. Першым на знаходкі звярнуў увагу У. С. Дактуроўскі, абследавалі ў 1934 А. Дз. Каваленя і К. М. Палікарповіч, раскопкі праводзілі ў 1939 Палікарповіч, у 1959—60 П. А. Прыбыткін, у 1961—63 Я. Г. Краскоўская, у 1966—68 М. М. Чарняўскі. Ускрыта 510 м². Культурны пласт перарэзаны асушальнымі канавамі. Выяўлены 2 гарызонты. У ніжнім, прымацерыковым, гарызонце знойдзены крамянёвыя і касцяныя вырабы, нешматлікія абломкі гладкасценных гаршкоў з ракушачнымі дамешкамі ў гліне, сціпла ўпрыгожаныя адбіткамі грэбеня, насечкамі, накольчатымі і ямкавымі паглыбленнямі. Матэрыялы адносяцца да крывінскага варыянта *нарвенскай культуры* і датуюцца 2-й пал. 3-га тысячагоддзя да н. э. У верхнім гарызонце выяўлены рэшткі пабудоў з кары і жэрдак, абломкі вастрадонных гаршкоў з заштрыхаванымі паверхнямі (шчыльна аздоблены насечкамі, грабеньчатымі адбіткамі, тычкамі, наколамі, ямкавымі ўціскannямі, шнуравымі ўзорамі), прылады працы з рога і косці (наканечнікі стрэл, сякеры, праколкі, рыбалоўныя кручкі і інш.), крамянёвыя вырабы (наканечнікі стрэл і коп'яў, сякеры, скрабкі, нажы), бурштынавыя і касцяныя ўпрыгожанні. Матэрыял верхняга гарызонту адносіцца да *паўночнабеларускай культуры* (канец неаліту — бронзавы век) і датуецца 1-й пал. 2-га тысячагоддзя да н. э.



Бурштынавыя падвескі канца 3— пач. 2-га тысячагоддзя да н. э. са стаянкі-1 **Галоўск.**



Гаршчок з курганнага могільніка **Галошава.**

Стаянка Крывіна-2. За 100 м на Пн ад стаянкі-1, на ўсх. краі выспы Ворлева. Выявіў і даследаваў у 1963 Прыбыткін (даследавана 25 м²), у 1980—81 раскопваў Э. М. Зайкоўскі (даследавана 55 м²). Культурны пласт да 0,4 м. Знаходкі адносяцца да крывінскага варыянта нарвенскай і паўночнабел. культур, аналагічныя знаходкам на стаянцы Крывіна-1.

Стаянка Крывіна-3. За 400 м на У ад выспы Ворлева, абапал магістральнага канала, якім выпрастана рэчышча р. Крывінка. Выяўлена ў 1978, раскопвалася ў 1978—79 Зайкоўскім (даследавана 81 м²). У культурным пласце знойдзены матэрыялы паўночна-бел. культуры, як і ў верхніх пластах папярэдніх тарфянікавых стаянак.

*Літ.*: 119, 398, 922, 1303. *М. М. Чарняўскі.*

**ГАЛО́ШАВА,** курганны могільнік крывічоў на ўсх. ускраіне в. Галошава Талачынскага р-на. Зберагліся 5 курганоў: па 2 абапал дарогі на г. п. Коханава і 1 на могілках. Дыям. 7—10 м, выш. 0,8—2 м, на паверхні сляды ям. Выявіў і абследаваў у 1885 М. М. Турбін, абследавалі ў 1956 Л. В. Аляксееў, у 1972 А. Р. Мітрафанаў, у 1981 В. М. Ляўко. У 1988 Ляўко раскапала курган каля дарогі. Выяўлены 2 пахаванні — адно ў насыпе (безынвентарнае), другое на грунце на падсыпцы таўшч. 0,2 м.

Пахавальны абрад — трупапалажэнне з частковым трупаспаленнем. Знойдзены бронзавы пласціністы пярсцёнак, жал. выраб дрэннай захаванасці (магчыма, фібула), хрусталёвая пацерка, гаршчок, вуголле.

Датуецца 1-й паловай 11 ст.

*Літ*.: 34, 1229. *В. М. Ляўко.*

**ГАЛО́ШАЎСКІ КАМЕ́ННЫ КРЫЖ,** гранітны крыж каля в. Галошава Талачынскага р-на. Знаходзіцца на ўсх. беразе воз. Глухое. Выш. наземнай часткі 1,5 м, шыр. лопасцей 1 м, таўшч. 0,4 м. Мясцовыя назвы «баба» і «кацярынінскі крыж». У старадаўнія часы каля крыжа спраўлялі малебны, рабілі прынашэнні (тканіны, манеты), у наш час яго ўпрыгожваюць фартушкамі і кветкамі. Паводле паданняў, крыж — акамянелая жанчы-

...а. адзнака мяжы Друцкага і Мсціслаўскага княстваў, месца закапаных скарбаў, што вывезлі французы ў 1812 з Масквы.

Побач быў малы каменны крыж, умураваны пазней у фундамент каплічкі.

*Літ.*: 813, 1229.

**ГАЛУБО́ВІЧ** Уладзімір [7(20).6.1908, Екацярынадар — 7.4.1962], беларускі і польскі археолаг. Скончыў Віленскі ун-т (1932), працаваў у археал. музеі ун-та. З 1944 навук. супрацоўнік Ін-та гісторыі АН БССР, у 1946—62 праф. Торуньскага і Вроцлаўскага ун-таў, кіраўнік Вроцлаўскага аддзялення Ін-та



**У. Галубовіч.**

археалогіі Польскай АН. У 1935—39 з жонкаю Г. *Цэгак-Галубовіч* рабіў раскопкі ў Глыбоцкім, Міёрскім, Пастаўскім, Навагрудскім, Лідскім і інш. раёнах, склаў археал. карты гэтых тэрыторый. Даследаваў стараж. Вільню, Мінск, апрацоўваў матэрыялы раскопак Гродна, вывучаў ганчарную вытворчасць у Зах. Беларусі. Даследаваў помнікі ў Зах. Плошчы (г. Аполе) і ГДР. Займаўся этнаграфіяй і тапанімікай.

*Тв.*: Кривой город — Вильно (разам з Г. Галубовіч) // Краткие сообщения Ин-та истории материальной культуры АН СССР. М., 1945. Вып. 11; Славянские поселения правобережной Дисны в Вилейском округе БССР (з ёй жа) // Там жа; Garncarstwo wiejskie zachodnich terenow Białorrusi. Toruń, 1950. *Л. Д. Побаль.*

**ГАЛЬША́НСКІ ЗА́МАК**, помнік палацава-замкавай архітэктуры 17—20 ст. Пабудаваны ў канцы 16— пач. 17 ст. на паўд.-ўсх. ускраіне в. Гальшаны Ашмянскага р-на, на левым беразе р. Гальшанка. Да сярэдзіны 16 ст. феад. рэзідэнцыя размяшчалася на гарадзішчы, што знаходзілася за 1,5 км на У ад вёскі, на правым беразе р. Карабель (левы прыток Гальшанкі). На новае месца перанесена, відаць, Багданам Сапегам. Помнік неаднойчы быў разбураны, перабудаваны ў 2-й пал. 18 ст. і ў пач. 20 ст., што значна змяніла яго знешні выгляд і аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю (страчаны галерэі, надбрамная вежа, дэкаратыўнае афармленне сцен, да фасадаў прыбудаваны 2 пяцігранныя 2-павярховыя прыбудовы). Замак — мураваны прамавугольны ў плане 3-павярховы будынак (94,9×78,4 м). Яго карпусы з 4 шасціграннымі шатровымі вежамі ўтваралі замкнёны амаль квадратны двор (65,4×57,4 м). Арачны праезд зроблены ў шматграннай надбрамнай вежы, якая была ўбудавана ў паўн.-ўсх. корпус. Захаваліся палавіна паўн.-зах. корпуса і прыбудова да яго, больш за палавіну паўн.-ўсх. корпуса і паўн. вуглавая вежа. Даследаванні праведзены ў 1981—83 архіт.-археал. экспедыцыяй Спец. навукова-рэстаўрацыйных вытворчых майстэрняў (цяпер Бел. рэстаўрацыйна-праектны ін-т). Пры абследаванні замка выяўлены 3 розначасовыя этапы буд. работ, якія адрозніваюцца характарам цэглы і тэхнікай муроўкі. Паміж розначасовымі муроўкамі няма перавязкі. Найб. ранняй уцалелай часткай помніка з'яўляецца зах. палавіна паўн.-зах. корпуса, збудаванага з цэглы-пальчаткі памерам 29×13××7 см, сустракаецца клінкерная цэгла. Пазней з цэглы-пальчаткі памерам 28,5—29,5×15—16×5,5—7 см пабудавана астатняя частка паўн.-зах. корпуса, паўд.-ўсх. і паўд.-зах. карпусы. На заключным этапе з цэглы-пальчаткі памерам 31,5××17,7×7 см пабудаваны паўн.-ўсх. корпус з надбрамнай паўд. і зах. вуглавымі вежамі. Аб іх пазнейшым паходжанні сведчаць і памер цэглы, і штрабы, да якіх яны прыбудоўваліся пазней. Паводле буд. матэрыялу і характару муроўкі 1-ы этап будаўніцтва можна датаваць 2-й пал.— канцом 16 ст., 2-і і 3-і этапы — пач. 17 ст. У час раскопак выяўлены рэшткі 5-граннай надбрамнай вежы, у тоўшчы паўн.-зах. мура якой былі вітыя прыступкі, што вялі з брамы на 2-і паверх палаца. У ніжняй частцы яе падмурка разам з цэглай выкарыстоўвалі камяні. Падмуркі паўн.-ўсх., паўд.-ўсх. і паўд.-зах. карпусоў (2 апошнія захаваліся) былі менш глыбокія, чым падмуркі паўн.-зах. корпуса, пад якім зроблены глыбокія падвалы. Пасярэдзіне паўд.-зах. корпуса пабудавана замкавая капліца з гранёнай апсідай. У тыльнай сцяне корпуса, бліжэй да паўд. вежы, знаходзіўся смешчаправод, ад якога захавалася адтуліна, абкладзеная пляскатымі



**Гальшанскі замак** у 1-й пал. 17 ст. Рэканструкцыя Дз. С. Бубноўскага.

камянямі. Мяркуючы па знаходках кавалкаў кафлі, керамічнага і шкляннога посуду, ён выкарыстоўваўся з канца 16 да канца 17 ст. Падобная адтуліна, але з паўцыркульным цагляным перакрыццем выяўлена ў паўн.-зах. грані паўд. вежы, што дае падставы меркаваць пра выкарыстанне паўд.-ўсх. часткі замка для гасп. мэт. Будынкі замка былі накрыты плоскай дахоўкай, падлога з плітак (таўшч. 5 см) тэракотавых зорка- і крыжападобных з завостранымі канцамі і прамавугольных з зялёнай палівай. Печы аздоблены кафляй, пакрытай зялёнай і паліхромнай палівай, з раслінным, геаметрычным, зааморфным арнаментам. Трапляецца кафля з гербам роду Сапегаў, фрагменты тэракотавай кафлі, пазначанай 1665, калі памёр П. Сапега. Вынікі даследаванняў замка даюць падставу меркаваць, што ён з'яўляўся помнікам архітэктуры часоў маньерызму. Найбліжэйшыя аналагі — галандскія замкі гэтага ж перыяду. *І. М. Чарняўскі.*

**ГАЛЬША́НСКІ КЛЯШТАР ФРАНЦЫСКА́НЦАЎ**, помнік архітэктуры 16—18 ст. у в. Гальшаны Ашмянскага р-на. У комплекс уваходзяць касцёл Іаана Хрысціцеля, кляштар і жылы корпус. Касцёл — 3-нефавая прамавугольная ў плане базіліка. Цэнтр. неф перакрыты цыліндрычным, бакавыя нефы — крыжовымі скляпеннямі. З ПдЗ да касцёла прымыкае П-падобны ў плане 2-павярховы будынак кляштара. Раскопкі ў 1985—87, 1990 праводзіў А. М. Кушнярэвіч. Даследаваннямі ўстаноўлена, што касцёл і кляштар будаваліся ў некалькі этапаў. Кожнаму з іх адпавядае свая тэхніка ўзвядзення падмуркаў. Паміж гэтымі муроўкамі адсутнічае перавязка. Яна не прасочваецца і паміж асобнымі праслямі сцен, што



**Гальшанскі манетны скарб.**




Металічныя падвескі (1, 3, 8—11), бранзалет (2), фібула (4), ключ (5), спіралька (6), пацерка (7), прасліцы (12, 13, 15), спражка (14), іголка (16), пласціна-накладка (17) з **Гальшанскіх гарадзішча і селішча**



Наканечнікі стрэл (1—5), нажы (6, 12), шыла (7), сярпы (8, 13), вядзёрнае вушка (9), жалезныя вырабы (10, 21), скобы (11, 14), пласціна ад панцыра (15), цвік (16), рыбалоўны кручок (17), шпора (18), наканечнік кап'я (19), фігурная акоўка (20) з **Гальшанскіх гарадзішча і селішча.**

сведчыць пра несінхроннасць іх будаўніцтва. У інтэр'еры касцёла выяўлены падмуркі з квадратных у плане (памер 1,35×1,37 м) апорных слупоў, расчышчаны падмуркі храма, які існаваў раней, прасочаны 2 ярусы падлогі 16—19 ст., якія знаходзяцца пад сучасным яе пакрыццём. Стратыграфія выяўленых тыпаў муровак і абрысы сутарэнняў усх. часткі касцёла дазволілі Кушнярэвічу і архітэктару У. С. Маскалёву рэканструяваць першапачатковую структуру касцёла. Гэта было, напэўна, прамавугольнае 3-нефавае збудаванне з добра развітым трансептам і паўкруглай апсідай. Яно ўзведзена ў 2-й пал. 16 ст. У сярэдзіне 2-й пал. 17 ст. касцёл быў пavялічаны ў шырыню. У пач. 18 ст. перароблена яго ўсх. частка, што прывяло да пераарыентацыі храма. У 16—18 ст. да паўд. фасада касцёла прыбудаваны кляштар. У працэсе археал. даследаванняў на яго паўд.-ўсх. баку расчышчаны рэшткі дзвюх 6-гранных вежаў, унутры двара — падмуркі галерэі, якая злучала ўсх. і зах. карпусы кляштара з касцёлам. Падмуркі вежаў і галерэі складзены ў тэхніцы мяшанай муроўкі. У інтэр'еры храма ў 3 шурфах знойдзены фрагменты фрэскавай размалёўкі 16 ст. У двары кляштара выяўлены 4 фрагменты скульптур з алебастру 17 ст., што знаходзіліся ў капліцы Сапегаў, а таксама архіт. дэталі ад іх надмагілля.

Сярод знаходак пераважаюць керамічныя вырабы 17—18 ст.: бытавы посуд (гаршкі, макотры, рынкі, талеркі, міскі, збаны, кубкі і інш.), тэракотавая, паліваная і паліхромная кафля 17 ст. з раслінным, геаметрычным, геральдычным арнаментам, кафля 18 ст. з гладкай паверхняй, буд. кераміка (цэгла, паліваныя пліткі падлогі, плоская і хвалістая дахоўка). Знойдзена шмат шкляных вырабаў 17—19 ст. (кілішкі, чаркі, кварты, пляшкі і інш.). Калекцыя металічных вырабаў складаецца з нажоў, відэльцаў, цвікоў, ключоў, манет, падкоў, абутковых падковак і інш.

*Літ.*: 755. *А. М. Кушнярэвіч.*

**ГАЛЬША́НСКІ МАНЕ́ТНЫ СКАРБ.** Знойдзены каля в. Гальшаны Ашмянскага р-на ў 1976. Складаўся з 838 сярэбраных манет агульнай масай 1326,626 г: 4 пражскія грошы Карла I [1346—78], 666 экз. Вацлава IV [1378—1419] — манетны двор Кутна Гора; 14 дэнарыяў і 154 паўгрошы Аляксандра Ягелончыка [1492—1501] — *Віленскі манетны двор.* Ухаваны ў 1501—06. Зберагаецца ў Нумізматычным кабінеце БДУ.

**ГАЛЬША́НСКІЯ ГАРАДЗІ́ШЧА І СЕ́ЛІШЧА,** археал. помнікі ранняга сярэднявечча (12—14 ст.) каля в. Гальшаны Ашмянскага р-на.

Гарадзішча. За 1,5 км на У ад вёскі, на правым беразе р. Карабель (левы прыток р. Гальшанка), на мысе валападобных узвышшаў. Пляцоўка прамавугольная з закругленымі вугламі, памерам 70×80 м. З ПнУ і Пн умацавана валам выш. да 2 м і стромкімі схіламі, з Пд — шырокім ровам. Адкрыў і даследаваў у канцы 19 ст. В. Савіцкі, даследаваў 160 м² у 1966 і 1970 Я. Г. Звяруга. Культурны пласт ад 0,4 м у цэнтры пляцоўкі да 1,5 м каля вала.

Выяўлены рэшткі печаў-каменак. Рэшткаў жытлаў выявіць не ўдалося, але бясспрэчна, што яны былі наземныя, бо ніякіх значных паглыбленняў у мацерыку не прасочана. Знойдзены прадметы ўзбраення (наканечнікі стрэл, шпоры, фрагменты пласцiністых даспехаў, рыштунак конніка), упрыгожанні (фібулы, спражкі, спіралькі, пацеркі, бранзалеты), металічныя амулеты (ключыкі, сякеркі, бразготкі), прылады працы (сярпы, нажы, іголкі, рыбалоўныя кручкі, гліняныя і шыферныя прасліцы), прылады гасп. прызначэння (ключы, петлі, прабоі, цвікі, заклёпкі), фрагменты шклянога посуду, гліняных ляпных пасудзін, ганчарнай керамікі.

У бел.-літ. летапісах узнікненне гарадзішча звязваюць з легендарным кн. Гольшысам (Гальшанам), братам Доўманта.

Селішча. Прымыкае з З і ПнУ да гарадзішча. Пл. каля 1 га. Выявіў і абследаваў у 1970-я г. Звяру-

га. Культурны пласт 0,2 м. Знойдзены вял. колькасць ляпной і ганчарнай керамікі, гліняныя прасліцы, бронзавая бразготка, бурштынавая шасцігранная пацерка.

*Літ.*: 424, 1263. *Я. Г. Звяруга.*

**ГАЛЬШАНЫ**, вёска ў Ашмянскім р-не, на левым беразе р. Гальшанка. Цэнтр сельсавета і саўгаса «Гальшаны». За 20 км на Пд ад Ашмян, 12 км ад чыг. ст. Багданаў. Аўтобусная станцыя на шашы Ашмяны — Валожын. Упершыню ў пісьмовых крыніцах упамінаецца ў 13 ст. як уладанне кн. Гальшанскіх. Паселішча знаходзілася за 2 км ад сучаснай вёскі (гл. ў арт. *Гальшанскія гарадзішча і селішча).* Жыццё там спынілася ў 17—18 ст., а назва замацавалася за новым суседнім паселішчам, якое даследаваў (23 $м^2$) у 1982 А. К. Краўцэвіч. Культурны пласт ад 0,4 м па краях і да 1,4 м у цэнтры паселішча.

Знойдзены гаршкі з фігурным вусцем, макотры, накрыўкі, талеркі, збаны, кубкі, фрагменты гаршковай, каробчатай тэракотавай і паліванай кафлі з раслінным, геаметрычным і геральдычным арнаментам, фрагмент гліңянай формы для вырабу кафлі (канец 15—16 ст.).

У 14—15 ст. цэнтр удзельнага княства ў Вял. кн. Літоўскім, з 2-й пал. 16. ст. належалі Сапегам. У 16 — пач. 17 ст. пабудаваны *Гальшанскі замак* і кальвінскі збор, у 17 ст.— *Гальшанскі кляштар францысканцаў.* З канца 16 ст. тут выраблялі паперу для пісьма і друку. У 17 — пач. 20 ст. мястэчка Ашмянскага пав. Віленскай губ., з 1795 у складзе Расійскай імперыі.

*А. К. Краўцэвіч.*

**ГАЛЬШТАЦКАЯ КУЛЬТУРА**, культура ілірыйскіх і кельцкіх плямён, што жылі на Пд Сярэдняй Еўропы ў раннім жал. веку (8—5 ст. да н. э.). Назва ад могільніка каля г. Гальштата (Аўстрыя), адкрытага ў 1846. Пры раскопках больш за 2 тыс. пахаванняў знойдзены жал. і бронзавая зброя, прылады працы, упрыгожанні, керамічныя вырабы з геам. арнаментам. Насельніцтва Г. к. займалася земляробствам, здабывала медную руду і соль, выраблялa бронзавыя, пазней жал. рэчы; жыло ў драўляных дамах слупавой канструкцыі, а таксама ў паўзямлянках і пабудовах на палях. Грамадскія адносіны характарызаваліся распадам роду і пераходам да класавага грамадства. На тэр. Гомельскай вобл. пры раскопках помнікаў *мілаградскай культуры* знойдзены рэчы гальштацкага тыпу: шкляныя пацеркі, бронзавыя шпількі і кельты, жал. наканечнікі коп'яў, матыка з двума бакавымі выступамі і інш.

*Літ.*: 90, 1453. *Л. Д. Побаль.*

**ГАМАЛІЦКІ** Міхаіл Лявонавіч [22.11(3.12).1791, в. Бялавічы Івацэвіцкага р-на — 21.1(2.2).1861], беларускі вучоны ў галіне медыцыны, гісторыі і літаратуры. Д-р медыцыны (1815), прафесар (1824). Скончыў Віленскі ун-т (1815), там жа і працаваў у 1816—27. З 1857 чл. Віленскай археал. камісіі. З 1830-х г. даследаваў помнікі палеаграфіі, займаўся вывучэннем стараж. Вільні і зах. зямель Беларусі. Дапамагаў А. Кіркору ў арганізацыі і прымаў удзел у яго археал. экспедыцыях, збіранні археал. матэрыялаў. Шмат рэдкіх дакументаў перадаў у Віленскі музей старажытнасцей.

*Літ.*: 515.

**ГАНАРАТА**, стаянка *нёманскай культуры* (4—3-га тысячагоддзяў да н. э.) каля в. Пескі Мастоўскага р-на. За 2,5 км на ПдУ ад вёскі, на Пд ад хутара Ганарата, на выступе тэрасы выш. 2—2,5 м, абмежаваным з Пд поймай р. Зальвянка, з З — старыцай. Памер 120×60 м. Выявіў у 1969 М. М. Чарняўскі. Культурны пласт да 0,6 м. Знойдзены крамянёвыя вырабы і кераміка лысагорскага этапу неаліту.

**ГАНЧАРНЫ ГОРАН**, спецыяльная печ для абпальвання бытавой і архітэктурна-дэкаратыўнай керамікі. На тэр. Беларусі пры раскопках знойдзены 3 горны 16—18 ст. для абпальвання кафлі і дахоўкі. Найб. ранні горан 16 ст. выявіў У. Е. Собаль у Мінску. Ён выраблены з чырвонай, добра абпаленай гліны. Таўшч. сценак 12 см. Паўтарае архаічную канструкцыю 2-яруснага цыліндрычнага горна, вядомага па матэрыялах раскопак па-за межамі Беларусі помнікаў эпохі Кіеўскай Русі. У ніжнім ярусе знаходзілася топка, у верхнім змяшчалася прадукцыя для абпальвання, у перагародцы паміж ярусамі зроблены адтуліны для паступлення гарачага паветра. Прадукцыю загружалі і вымалі праз адтуліну ўверсе, якая на час абпальвання замазвалася глінай. Горан 17 ст. выявіла В. М. Ляўко на тэр. Куцеінскага манастыра ў Оршы. Меў цыліндрычную форму. Быў складзены з баразнаватай цэглы памерам 31×15,5×13 см. Таўшч. сценак каля асновы і ў ніжняй частцы 0,26—0,3 м. Чарэнь (под) верхняга яруса таксама выкладзены з цэглы. У цэнтр. частцы горна знаходзіўся чатырохвугольны слуп з скразной адтулінай для паступлення гарачага паветра з топкі. Верхняя камера для абпальвання была запоўнена вял. колькасцю дахоўкі. Горан 18 ст., выяўлены А. К. Краўцэвічам у Міры, паводле канструкцыі аналагічны горну з Куцеінскага манастыра.

*Літ.*: 1102, 1227. *В. М. Ляўко.*

**ГАНЧАРНЫ КРУГ**, прыстасаванне для фармоўкі ганчарных вырабаў. Яго дзеянне засн. на цэнтраваным вярчэнні ў адной плоскасці пры дапамозе вертыкальнай восі. На Г. к. загладжвалася паверхня пасудзіны, зробленай ад рукі, або з камяка гліны выцягвалася полае цела пэўнай формы. Вынаходства і пашырэнне Г. к. сведчыла пра пераход да рамеснай вытворчасці. Першапачаткова выкарыстоўваўся на паўд. землях Усх. Еўропы, адкуль у 10 ст. пашырыўся на лясную палосу, у т. л. на тэр. Беларусі. Найб. архаічны — р у ч н ы Г. к. (прыводзіўся ў рух рукамі) з нерухомай або рухомай воссю. Кругу з нерухомай воссю папярэднічала круглая фармовачная падстаўка, якая стала выкарыстоўвацца пры пераходзе ад вастрадонных пасудзін да пласкадонных. Найпрасцейшы круг з нерухомай воссю быў аднадыскавым. Дыск з сасны ці бярозы дыям. 25—40 см, таўшч. 4—8 см выраблялі разам з ножкай. у цэнтры якой прасвідроўвалі адтуліны для восі («шпяня», «шворна») з дубу або жалеза. У выніку развіцця канструкцыі ўзнік ручны Г. к. з крыжавінай, спіцамі, 2 дыскамі. З сярэдзіны 16 ст. на Беларусі ў культурных пластах гар. і сельскіх паселішчаў шырока фіксуецца кераміка. выкананая на н а ж н ы м Г. к. (прыводзіўся ў рух нагамі). Яго таксама цалкам выраблялі з дрэва. Складаўся з 2 дыскаў, злучаных на адлегласці 35—45 см 4—8 спіцамі. Праз адтуліну ў ніжнім дыску насаджваўся на вось, наглуха замацаваную ў зямлі або крыжавіне. Самым познім з'яўляецца нажны Г. к. з рухомай воссю («станок», «варштат», «пагон»). Складаецца з верхняга малога дыска («галоўка», «верх», «вярхняк», «верхнік», «вяршок», «крутэлка», «кружка», «кацёлка») дыям. 20—27 см і ніжняга вял. дыска («сподак», «спадняк», «споднік», «круг», «крыжэлка», «кацёлка») дыям. 65—80 см. Дыскі таўшч. 8—10 см, кожны цвёрда прымацаваны да восі, якая ніжнім канцом упіраецца ў падстаўку з гняздом — порпліцу («паўпрыца», «бабка», «чашачка», «панеўка», «мітэрка»). Вось круцілася разам з дыскамі. Нажны Г. к. выкарыстоўвалі ў фаянсавай вытворчасці, чым тлумачыцца яго пашырэнне на Беларусі з сярэдзіны 18 ст. разам з паяўленнем фаянсавых мануфактур.

*Літ.*: 135, 777. *В. М. Ляўко*

**ГАНЧАРЫ**, стаянка *мезаліту*, ранняга *неаліту* і *бронзавага веку* каля в. Ганчары Лідскага р-на. За 1 км на ПнУ ад вёскі, на краі правабярэжнай тэрасы р. Дзітва, ва ўрочышчы Ціханавічаў Брод. Памер 60×40 м, выш. 2,5 м. Адкрыў і даследаваў 38 $м^2$ у 1962 М. М. Чарняўскі. Культурны пласт 0,8 м. Выяўлены рэшткі вогнішча з перапаленымі камянямі і крамянёвыя вырабы, у т. л. ланцэтападобныя наканечнікі стрэл *яніслававіцкай культуры*, архаічныя сякеры, трохвугольныя наканечнікі стрэл, абломак венчыка ранненеалітычнай пасудзіны.

*Літ.*: 1289.

**ГАРА́,** археал. помнікі каля в. Гара Чашніцкага р-на.

Гарадзішча. За 2 км на ПнЗ ад вёскі, злева ад дарогі да воз. Чарэйскае. Мясц. назва Гара. Пляцоўка памерам 29×24 м, выцягнута з Пн на Пд, выш. над наваколлем каля 7 м. З паўд. боку ўмацавана валам выш. да 0,8 м і ровам глыб. каля 0,6 м, з зах. і паўн. бакоў абмежавана забалочанай поймай. Вядома з 1873, абследавалі ў 1971 В. Б. Караткевіч, у 1981 Т. С. Бубенька. Культурны пласт 0,5 м.

Курганны могільнік. За 1 км на Пд ад вёскі, на могілках. Мясц. назва Напалеонаўскія магілы. 6 насыпаў выш. 0,6—1,2 м, дыям. 8—12 м, моцна аплылі, асобныя пашкоджаны ямамі. Вядомы з 1873, абследавала ў 1981 Бубенька, Э. М. Зайкоўскі раскапаў 1 курган. У насыпе (выш. 0,8 м, дыям. да 6 м) выяўлены фрагменты ганчарнай керамікі, у т. л. 2 фрагменты венчыкаў 15—16 ст., на мацерыку з пяску ў цэнтры кургана — дробныя вугалькі.

*Літ.*: 1046. *Э. М. Зайкоўскі.*

**ГАРА́ВЕЦ,** курганны могільнік каля в. Гаравец Барысаўскага р-на. За 700 м на ПнУ ад вёскі, у лесе. Выцягнуты з З на У. У паўн. частцы пераважаюць круглыя насыпы дыям. 5—10 м, выш. да 1,5 м (часткова абкладзеныя вял. камянямі), у паўднёвай — выцягнутыя з З на У, памерам 2×1 м, выш. 0,6 м, абкладзеныя камянямі, на якіх устаноўлены вял. валуны, часам са слядамі апрацоўкі, у т. л. з выявамі крыжоў. У 1986 А. М. Плавінскі і В. Н. Рабцэвіч раскапалі 2 круглыя курганы з трупапалажэннямі галавой на У у ямах глыб. 0,5—0,7 м і 5 падоўжаных курганоў з двума трупапалажэннямі галавой на З і трыма на ПнЗ. У 3 пахаваннях нябожчыкі былі абкладзены драўлянымі плахамі. Рэчавага інвентару мала. Знойдзены рэшткі ачэлляў з металічных бляшак нашытых на палоскі з тканіны або скуры, невял. бронзавае скроневае кольца з S-падобным завітком. Датуецца 14—15 ст.

*А. М. Плавінскі.*

**ГАРАВЫ́Я,** археал. помнікі каля в. Гаравыя Полацкага р-на.

Гарадзішча днепра-дзвінскай культуры. За 1 км на ПдУ ад вёскі, на в-ве Таўкач сярод балота. Пляцоўка авальная, памерам 28×21 м. Абарончыя збудаванні не выяўлены. Даследавалі ў канцы 19 ст. А. М. Семянтоўскі, у 1928 А. М. Ляўданскі, у 1961 А. Р. Мітрафанаў. Культурны пласт 0,25 м.

Выяўлены рэшткі доўгіх жытлаў слупавой канструкцыі, каменнае агнішча. Знойдзены ляпны гліняны посуд, жал. прылады працы, косці жывёл і інш.

Курганны могільнік полацкіх крывічоў (2-я пал. 1-га тысячагоддзя н.э.). За 500 м на ПнУ ад вёскі, каля дарогі Гаравыя — Баравуха 1-я. 15 курганоў выш. да 1 м, дыям. да 8 м (раней было 38 круглых і падоўжаных у плане насыпаў). Даследавалі 8 курганоў у 1928 А. М. Ляўданскі, у 1980 два курганы Вас. А. Булкін і Г. В. Штыхаў. Пахавальны абрад — трупаспаленне.

У адным з насыпаў выяўлена пахаванне ў урне слоікавай формы, накрытай другой пасудзінай, у 3 быў пахавальны інвентар (шкляныя пацеркі, бронзавая спіралька і ўпрыгожанні, ляпныя гаршкі), астатнія пахаванні без інвентару. Большасць курганоў парожнія. Каля аднаго кургана знойдзены кавалкі гаршка 4—5 ст.

*Літ.*: 715, 1075, 1343. *Г. В. Штыхаў.*



Медны крыж 16 ст. з гарадзішча **Гара:** правы і адваротны бакі.



Выявы крыжоў на валунах з курганнага могільніка **Гаравец.**



Раскопкі курганнага могільніка **Гаравыя.** 1980.

**ГАРАДЗЕ́Ц,** старажытны горад Полацкай зямлі, які ўпамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1162 у сувязі з паходам кн. Рагвалода Барысавіча супраць Валадара Глебавіча: «... приходи Рогъволодъ на Володаря с Полотъчаны к Городцю. Володарь же не да ему полку въ дне но ночь выступи нанъ из города с Литвой и многа зла створися в ту ночь. Он ихъ избиша а другыя руками изоимаша множьства паче изъбьеных». З летапісу відаць, што Г. добра ўмацаваны горад, магчыма, цэнтр удзельнага княства, належаў мінскім Глебавічам, размяшчаўся, верагодна, недалёка ад Мінска сярод лясоў. Яго атаясамлівалі з Гарадзеяй (Нясвіжскі р-н), Гарадзішчам (Баранавіцкі р-н), Гарадком каля Маладзечна, Гарадзінцом паміж Лепелем і Чашнікамі, Высокім Гарадцом Талачынскага р-на, Сёмкавым Гарадком і Астрашыцкім Гарадком, Гарадцом на р. Мнюта (Шаркаўшчынскі р-н), раённым цэнтрам Гарадок Віцебскай вобл. Але ў названых пунктах археолагі не знайшлі рэштказ старaж. горада. Ёсць меркаванне, што Г. не існаваў, а летапіснае паведамленне адносіцца да Мінска.

*Літ.*: 46, 924, 1346.

*Г. В. Штыхаў, Г. М. Семянчук.*

**ГАРАДЗЕ́Ц,** археал. помнікі каля в. Гарадзец 3-і Ушацкага р-на.

Гарадзішча. На левым беразе р. Ушача, на месцы былой в. Гарадзец 1-ы, на ўзгорку выш. 16—18 м. Памер пляцоўкі каля 90×90 м. Вядома з 1873. Даследавалі ў 1928 І. А. Сербаў, у 1972 А. Г. Калечыц, у 1981 А. А. Егарэйчанка. Культурны пласт 0,2—0,6 м. У ніжнім гарызонце знойдзена ляпная кераміка, у верхнім — фрагменты ганчарнага посуду. Датуецца 1-й пал. 1-га тысячагоддзя н.э. і 11—12 ст.

Курганны могільнік. Побач з вёскай на высокім беразе воз.

Існа. 20 курганоў выш. да 1,5 м, дыям. да 3 м. Вядомы з 1873. У 1928 Сербаў даследаваў адзін насып, у якім выяўлены шкілет нябожчыка на вогнішчы. Датуецца пач. 2-га тысячагоддзя н. э.

*Літ.*: 1081. *В. Б. Караткевіч.*

**ГАРАДЗІЛАЎКА,** археал. помнікі 10—12 ст. каля в. Гарадзілаўка Навагрудскага р-на.

Селішча. За 500 м на У ад вёскі, на левым беразе безназоўнай ракі. Пляцоўка памерам 130×125 м. Выявіла і даследавала 160 м² у 1956 Ф. Д. Гурэвіч. Культурны пласт 0,5 м.

Выяўлены рэшткі паглыбленых у зямлю і наземных жытлаў, шматлікія гасп. ямы. Знойдзены тронкавы нож, лыжкарэз, ключ, абломкі шкляных бранзалетаў, вырабы з бронзы, крамянёвы наканечнік стралы, фрагменты ляпнога і ганчарнага посуду, упрыгожаныя лінейным, хвалістым арнаментам і косымі насечкамі.

Курганны могільнік-1. За 250—500 м на З ад селішча. Было больш за 10 насыпаў выш. да 2 м, дыям. 5—12 м. Па 2 курганы даследавалі ў 1892 М. А. Цыбішаў, у 1956 — Гурэвіч. Пахавальны абрад — трупаспаленне.

Знойдзены дзяржанневыя нажы, красалы, жал. і бронзавыя спражкі, тачыльныя камяні, бронзавыя завушніца, скроневая кольца і бранзалеты (адзін абцягнуты меддзю), шыфернае біканічнае прасліца, бронзавае скроневае кольца з перавітымі канцамі, сердалікавая 14-гранная, жоўтая паставая і шкляныя пацеркі, абломкі 3 пасудзін ганчарнай керамікі.

Курганны могільнік-2. За 500 м на З ад могільніка-1, у лесе каля дарогі на Навагрудак. Было каля 40 курганоў дыям. 5—10 м. Даследавала 1 насып (дыям. 7,5 м, выш. 1,25 м) у 1956 Гурэвіч. У невял. яме выяўлены абкладзены камянямі касцяк нябожчыка галавой на З.

*Літ.*: 272, 1277. *В. У. Шаблюк.*

**ГАРАДЗІШЧА,** рэшткі стараж. ўмацаванага паселішча або горада. Назва паходзіць ад стараж.-рус. «городити» — агароджваць. У сэнсе «ўмацаванае пасяленне, гарадок» слова Г. сустракаецца ўжо ў 12 ст. ў «Аповесці мінулых гадоў». Найчасцей вызначаюцца валамі, равамі, рэшткамі сцен, наяўнасцю *культурнага пласта.* Паяўленне Г. звязана з эпохай патрыярхату і пераходам насельніцтва да заняткаў жывёлагадоўляй і земляробствам. Рост прадукцыйных сіл садзейнічаў паяўленню і паглыбленню супярэчнасцей паміж родамі і плямёнамі, што і выклікала ўзмацненне ваеннай небяспекі. Узнікла неабходнасць пасяляцца на ўмацаваных прыродай мясцінах і будаваць абарончыя ўмацаванні, якія рабіліся з такім разлікам, каб больш эфектыўна абараняць маёмасць роду ад варожых нападаў. Найб. старажытныя Г. ў СССР адносяцца да энеаліту, а самыя познія — да 16—18 ст. На Беларусі вядомы з позняга бронзавага веку, але найб. пашыраны ў раннім жал. веку (з 9—8 ст. да н.э.). Часта Г. адной эпохі выкарыстоўваліся насельніцтвам больш позняга часу. Напрыклад, Г. плямён мілаградскай, зарубінецкай, штрыхаванай керамікі і днепра-дзвінскай культур выкарыстоўвалі плямёны 2-й пал. 1-га тысячагоддзя н.э., потым сярэдневяковае насельніцтва Беларусі. Звычайна Г. будавалі на ўзвышаных месцах, каля берагоў рэчак і вадаёмаў, часцей за ўсё паблізу іх вусцяў. Размяшчаліся паасобку і групамі (гнёздамі) па 3—5 і болей, што адлюстроўвала сацыяльную структуру развітога патрыярхату, дзе асноўнай гасп. адзінкай была вял. сям'я з 40—60 чал., што пражывала на адным гарадзішчы. Некалькі такіх сямей складалі радавую супольнасць (некалькі Г.), якая мела сваю пэўную тэрыторыю для пражывання, апрацоўкі глебы і пашавых угоддзяў. У залежнасці ад месца ўзвядзення ўсе Г. на Беларусі тыпалагічна падзяляюць на ўзгоркавыя, мысавыя і балотныя. Іх колькасныя суадносіны звязаны з геаграфічным рэльефам канкрэтнай мясцовасці. Узгоркавыя будавалі на ледавіковых халмах-астанцах, мысавыя — на высокіх берагах рэк і азёр, балотныя — сярод поймавых нізін, балот і лясоў. На Пн і ў цэнтры Беларусі часцей сустракаюцца ўзгоркавыя, на Пд — мысавыя і балотныя Г. Звычайна Г. маюць культурны пласт, у якім пры раскопках знаходзяць рэшткі жытлаў, майстэрняў, розныя рэчы і інш. Выключэнне складаюць балотныя гарадзішчы-сховішчы, дзе насельніцтва хавалася ў час ваеннай небяспекі. Некаторыя даследчыкі звязваюць іх са скіфскімі традыцыямі будаваць вял. загоны для жывёлы. Тыпалагічную характарыстыку Г. складаюць і такія фактары, як форма, выгляд абарончых збудаванняў і суадносіны іх асобных элементаў, дасканаласць і адпаведнасць пэўным абарончым задачам. Форма пляцоўкі Г. залежала ад канфігурацыі мысаў ці ўзвышшаў: узгоркавыя звычайна мелі круглую ці авальную форму пляцоўкі, мысавыя былі трохвугольныя ці чатырохвугольныя. Плошча Г. ранняга жал. веку звычайна ад 0,5 тыс. да 2 тыс. м² і больш, пазнейшага часу ад 2 да 10 тыс. м² і болей. Сістэма абарончых збудаванняў з цягам часу мянялася ад простых канструкцый з вастраколаў да складанай фартыфікацыйнай сістэмы з валоў і равоў. На валах узводзілі сцены з бярвення. У раннім сярэднявеччы на месцы былых Г. часта ўзнікалі гарады, замкі і сядзібы феадалаў. Да сённяшніх дзён на Беларусі захавалася каля 1 тыс. Г. розных часоў.

*Літ.*: 3, 847, 1340. *В. І. Шадыра.*

**ГАРАДЗІШЧА,** гарадзішча культуры штрыхаванай керамікі і эпохі ранняга феадалізму каля г.п. Гарадзішча Баранавіцкага р-на. За 800 м на З ад пасёлка, на правым беразе р. Сэрвач, ва ўрочышчы Гарадок. Авальная пляцоўка памерам 28×50 м арыентавана з Пд на Пн. Уезд з паўн. боку. Найб. стромкія схілы — з усх. боку. З боку поля роў шырынёю 6—7 м і глыб. 1,3—1,7 м. Даўж. ўмацаванага ўчастка каля 200 м, шыр. 130 м. Вядома з 19 ст., абследавалі У. С. Астапаў, П. А. Рапапорт, Ф. Д. Гурэвіч, А. Р. Мітрафанаў, Л. Д. Побаль, М. М. Чарняўскі, Т. С. Бубенька, даследаваў у 1987—88 А. М. Мядзведзеў. Культурны пласт да 0,6 м. Знойдзены некалькі неапрацаваных крамянёвых адшчэпаў і нажападобных пласцінак, гладкасценная і штрыхаваная кераміка, бронзавыя ўпрыгожанні, жал. прылады працы, шлакі. Гарадзішча было заселена ў раннім жал. веку і ў эпоху феадалізму. *М. М. Чарняўскі.*

**ГАРАДЗІШЧА,** археал. помнікі каменнага і жал. вякоў каля в. Гарадзішча Бярэзінскага р-на.

Стаянка-1 *каменнага веку.* За 300 м на З ад вёскі, на другой надпоймавай тэрасе правага берага р. Бярэзіна, на выш. 10—12 м над узроўнем вады. Пл. 1500 м², разворваецца. Выявіў і даследаваў у 1982 У. П. Ксяндзоў. На полі сабраны крамянёвыя нуклеусы, пласціны і адшчэпы (часткова з рэтушшу), фрагменты ганчарнай керамікі.

Стаянка-2 днепра-дзяснінскай культуры эпохі *мезаліту.* За 300 м на Пд ад вёскі, на першай надпоймавай тэрасе правага берага Бярэзіны, на выш. 3—4 м над узроўнем вады. Адкрыў у 1987 і даследаваў 112 м² у 1988 Ксяндзоў. Культурны пласт 0,2—0,4 м.

Знойдзены прылады працы цёмна-шэрага крэйдавага крэменю высокай якасці: наканечнік стралы, разцы, скрабкі, праколка, скоблі, укладышавыя вырабы, пласціны і адшчэпы з рэтушшу, нуклеусы, жалвакі крэменю.

Гарадзішча *жалезнага веку.* На ўсх. ускраіне вёскі, на правым беразе Бярэзіны, ва ўрочышчы Гарадок. З боку поля ўмацавана 2 валамі і равамі (ледзь прасочваюцца). З боку ракі край пляцоўкі і валы часткова разбураны траншэямі ваеннага часу. Выш. над поймай 10 м. Пляцоўка памерам 110×80 м, роўная, задзірванелая, зарасла дрэвамі. Адкрыў у 1930 г. А. М. Ляўданскі, абследавалі ў 1963 Л. Д. Побаль, у 1979 Т. С. Бубенька. Культурны пласт 0,25—0,5 м.

Знойдзена ляпная кераміка мілаградскай і ранняга этапу зарубінецкай штрыхаванай керамікі культур, ганчар-

...ная кераміка і жал. сякера ранне-феад. часу.

*Літ.*: 718.

*Т. С. Бубенька, У. П. Ксяндзоў.*

**ГАРАДЗІШЧА,** комплекс археал. помнікаў каля в. Гарадзішча Мінскага р-на.

Гарадзішча *штрыхаванай керамікі культуры.* У вёсцы, на правым беразе перасохлай р. Менка, за 2 км ад упадзення яе ў р. Пціч. Складаецца з малога (1 пляцоўка) і вялікага (2 пляцоўкі) гарадзішчаў агульнай пл. 1,3 га. З боку поля ўмацавана ровам (цяпер аплыў), валамі выш. з вонкавага боку 8—10 м, у асобных месцах 12 м (абкружаюць 3 пляцоўкі). Пляцоўка на малым гарадзішчы вышэй за астатнія. Другая, большая, з'яўляецца асн. тэрыторыяй вял. гарадзішча і мае нахіл у паўн. напрамку. Трэцяя пляцоўка прымыкае да другой з паўн. боку і знаходзіцца ніжэй за яе на 8—9 м. Гарадзішча мае 3 уваходы: першы каля паўн.-ўсх. вугла (вядзе з ніжняй пляцоўкі да ракі), другі (першапачатковы) знаходзіцца побач, трэці каля паўд.-зах. вугла. У малое гарадзішча можна было прайсці толькі з вялікага. Абследаванні і раскопкі праводзілі ў 1930 А. Рынейскі, у 1935 А. М. Ляўданскі, у 1954 А. Р. Мітрафанаў, у 1963, 1967 Э. М. Загарульскі, у 1969, 1970 М. А. Ткачоў, у 1976—83 Г. В. Штыхаў. Даследавана 1900 м². Культурны пласт 0,3—2 м. Выяўлена гісторыя будаўніцтва гарадзішча. Малое гарадзішча ўзнікла на стрэлцы мыса, утворанага р. Менка і ручаём Дунай. Пляцоўка памерам 80×16 м. Па краі пляцоўкі быў узведзены вал. Належала насельніцтву культур штрыхаванай керамікі і банцараўскай (6—8 ст.), а таксама ранняга сярэднявечча (9—11 ст.). Вял. гарадзішча памерам 110×80 м прыбудавана ў канцы 1-га тысячагоддзя н.э. Яно выконвала ролю вакольнага горада. Умацавана валам выш. 4 м з гароднямі (памер 3,5×4 м) у 3 рады, шчыльна запоўненымі суглінкам і супескам. Калі знешнія ўмацаванні былі знішчаны агнём, вал рэканструявалі, падвоіўшы вышыню, на грэбені яго паставілі частакол. Гарадзішча кантралявала акругу паміж Нёманам і Пціччу, па якой праходзіў гандл. шлях з Балтыйскага мора ў Чорнае. Як цэнтр акругі спыніла існаванне ў 2-й пал. 11 ст., калі было пабудавана замчышча на беразе Свіслачы пры ўпадзенні ў яе Нямігі. Знойдзены амулет 1 ст. н. э. з егіпецкага фаянсу ў выглядзе плоскай пацеркі авальнай формы з рэльефнай выявай крылатага бажаства, гліняныя прасліцы, посуд штрыхаванай керамікі і банцараўскай культур, ганчарная кераміка з арнаментам раменскага тыпу, абгарэлае зерне, бронзавыя спражкі і наканечнік ножнаў мяча, жал. наканечнікі стрэл, кераміка з клеймамі ў выглядзе знака Рурыкавічаў (трызубец), паўд. амфары, жорны, пацеркі-лімонкі (10—11 ст.), таксама кафля, манеты, жал. вырабы, ганчарны посуд (17—19 ст.). Датуецца 9—11 і 17—19 ст.




**Гарадзішча** (Мінскі р-н). План: малое (1) і вялікія (2, 3) гарадзішчы.



Пацерка з егіпецкага фаянсу 2—3 ст. з гарадзішча **Гарадзішча** Мінскага р-на.



Жалезныя пярсцёнкі, фібула, ножык і ключ з селішча **Гарадзішча** (Мінскі р-н).

Селішчы. На полі, на Пд і У ад гарадзішча (даўж. 500 м, шыр. каля 150 м); на З ад гарадзішча, на сядзібах уздоўж р. Менка

(даўж. 400 м, шыр. 300 м); уздоўж левага берага р. Менка, на тэр. вёскі (даўж. 900 м, шыр. 200 м). Агульная пл. каля 30 га. Даследавалі 1480 м² у 1963 Загарульскі, у 1975, 1983 Штыхаў. Культурны пласт 0,3—1,4 м.

Выяўлены больш за 80 гасп. ям (7 з іх глыб. 0,6—0,8 м прамавугольныя, пл. 8—9 м²), рэшткі майстэрні па вырабу прасліц з ружовага шыферу, упрыгожанні, касцяныя шахматная фігурка каня і пісала з выявай галавы звера, ганчарная кераміка (гаршкі з адагнутым складана прафіляваным венчыкам, упрыгожаны лінейным арнаментам, у некаторых на дне клеймы), жал. вырабы (ключы, крэсівы, нажы, цвікі і інш.), шкляныя, сердалікавыя пацеркі, металічныя ўпрыгожанні.



Да арт. **Гарадзішча** (Мінскі р-н). Участак вала вялікага гарадзішча.

Шкляныя і сердалікавыя пацеркі 1-й пал. 11 ст. з Гарадзішча (Мінскі р-н).

Датуецца 9—11 ст.

Курганны могільнік-1. За 1,5 км на Пн ад гарадзішча. 2 насыпы выш. 1,6 м, дыям. 11 м. Даследаваў 1 курган у 1979 В. А. Карпека. Пахавальны абрад — трупапалажэнне галавой на З. Знойдзены жал. звікі, кавалкі гаршкоў. Датуецца 11 ст.

Курганны могільнік-2. За 200 м на Пн ад могільніка-1. 13 насыпаў выш. 0,3—2,5 м, дыям. 3—11 м. Даследаваў 1 курган у 1979 Карпека. Знойдзены кавалкі ганчарных гаршкоў з лінейным арнаментам і кляймом на дне. Абодва могільнікі з'яўляюцца рэшткамі некропаля ў наваколлі гарадзішча. Датуецца 11 ст.

Бескурганны могільнік. На селішчы, на Пд ад гарадзішча, на правым беразе р. Менка. У культурным пласце на глыб. 0,2—0,4 м выяўлена 18 шкілетаў жанчын і дзяцей. Астатнія дрэнна захаваліся. Пахавальны абрад — трупапалажэнне галавой на З. Датуецца 11 ст.

Археал. комплекс на р. Менка папярэднічаў узнікненню ўмацаванага замчышча на Нямізе і, магчыма, тут у 10—11 ст. быў першапачатковы Мінск і назву сваю атрымаў ад р. Менка.

*Літ.:* 385, 1346. *Г. В. Штыхаў.*

**ГАРАДЗІШЧА,** комплекс археал. помнікаў жал. веку каля в. Гарадзішча Мядзельскага р-на.

Гарадзішча *штрыхаванай керамікі культуры* і *банцараўскай культуры.* За 500 м на З ад вёскі, злева ад шашы Княгінін — Мядзел, на ўзгорку. Пляцоўка авальнай формы, памерам 62×36 м, умацавана 2 дугападобнымі валамі: унутраным выш. 0,6—0,7 м, шыр. 8—10 м, які праходзіў па краі пляцоўкі (не захаваўся), і вонкавым, які размяшчаўся на схіле ўзгорка, на 4—5 м ніжэй краю пляцоўкі. Адкрыў у 1893 Ф. В. Пакроўскі, даследавалі ў 1969—73 А. Р. Мітрафанаў, у 1986—88 археал. экспедыцыя БДУ пад кіраўніцтвам Э. М. Загарульскага. На думку Мітрафанава, першапачаткова па краі пляцоўкі на невял. падсыпцы была ўзведзена драўляная сцяна, якая пазней згарэла. У канцы 1-га тыс. да н. э.— пач. 1-га тыс. н. э. пляцоўка была значна павялічана за кошт перамяшчэння на схілы культурнага пласта, па краі яе была ўзведзена новая абарончая сцяна, таксама знішчаная пажарам. У 5—6 ст. пляцоўка зноў была павялічана, усх. бок гарадзішча дадаткова ўмацаваны ўнутраным валам, астатняя частка пляцоўкі абнесена новай абарончай сцяной. Адначасова ва ўсх. частцы на схіле быў выкапаны роў і насыпаны вонкавы вал. У гэты час яно выкарыстоўвалася як гарадзішча-сховішча для насельніцтва, што жыло на суседнім селішчы. Культурны пласт ад 0,25 м у цэнтры да 1,65 м каля краю пляцоўкі.

Выяўлены скопішчы камянёў, каменныя вымасткі, складзеныя ў 2—3 рады, больш за 20 гасп. ям круглай і авальнай у плане і чашападобнай у сячэнні формы. У адной з ям выяўлена 2 узвышэнні, плоскія паверхні якіх забрукаваны камянямі. Пограб меў драўлянае перакрыцце, аснову якога складалі ўкапаныя па перыметры слупы. Знойдзены таксама гліняныя лінзы круглаватай формы, дыям. 0,4—0,75 м, акаймаваныя раўкамі глыб. 0,1 м, запоўненыя культурным пластом і дробным вуголлем. Лінзы мелі, напэўна, культавае прызначэнне. Для ранняга этапу існавання гарадзішча характэрна гліняныя штрыхаваныя гаршкі слоікавых і слабапрафіляваных форм. Апошнія ўпрыгожваліся ямкавымі ўціскannямі, якія наносілі ў лінію праз пэўныя інтэрвалы на шыйцы пасудзін, або ямкамі, згрупаванымі ў трохвугольнікі. На другім этапе пашырыліся рабрыстыя штрыхаваныя гаршкі, нязначная частка якіх арнаментавана зашчыпамі або ямкавымі ўціскannямі, нанесенымі на рэбры пасудзіны. Знойдзены жал. сякера-кельт, зубіла, сярпы, нажы, каса, шылы, посахападобныя шпількі, каменныя зерняцёркі, цёрачнікі, тачыльныя брускі, загатоўка каменнай пацеркі, бронзавыя скроневае кольца, пранізка, авальная спражка, накладка на пояс, гліняныя прасліцы, тыглі, грузілы, грузікі і інш. На трэцім этапе пераважалі слабапрафіляваныя гаршкі з невял. адагнутым вонкі венчыкам з загладжанай або храпаватай паверхняй без арнаментацыі, прылады працы, упрыгожанні і зброя (сярпы, нажы, посахападобныя шпількі, шылы, шпоры, трапецападобныя падвескі, льячка, біканічныя праслііцы) і інш.



Гліняная льячка і жалезная каса з гарадзішча **Гарадзішча** (Мядзельскі р-н).




Вырабы з жалеза, косці, гліны і каменю з гарадзішча каля в. **Гарадзішча** (Мядзельскі р-н).

Селішча банцараўскай культуры. На паўн., паўн.-зах. і зах. частках пакатых схілаў гарадзішча. Адкрыў у 1964, даследаваў у 1965—72 А. Р. Мітрафанаў, раскапана 2612 м². Выяўлены рэшткі 42 жытлаў, у т. л. 11 слупавых (5 наземных і 5 урэзаных у схілы ўзгорка) і 31 зрубнае (14 паўзямлянкавых і 15 урэзаных у схілы ўзгорка), і 17 гасп. ям.

Слупавыя дамы прамавугольнай або трапецападобнай формы, пл. 10—21 м², арыентаваны сценамі на З ці У (або з невял. адхіленнем). Дыям. слупоў, што фарміравалі каркас пабудоў, дасягаў 0,4—0,5 м, дыям. гарызантальных бярвён, якія ўпускаліся ў пазы слупоў,— 0,25—0,3 м. У цэнтры жытлаў размяшчаліся адкрытыя агнішчы круглай або авальнай формы ў выглядзе гліняных пляцовак таўшч. 0,08—0,12 м, куды былі ўмураваны камяні. Зрубныя пабудовы прамавугольнай формы пл. 6,2—15 м², глыб. катлаванаў у залежнасці ад стромкасці схілу вагалася ад 0,2 да 0,6 м, арыентаваны ў большасці выпадкаў па кірунках свету. У шэрага паўзямлянак захаваліся рэшткі ніжніх бярвён зрубаў у выглядзе абгарэлага дрэва або скопішчаў вугалю, якія размяшчаліся ўздоўж сцен катлаванаў. У некаторых выпадках удалося прасачыць уваходы ў жытлы (у адной паўзямлянцы ўваход размяшчаўся з паўн. боку і ўяўляў сабой напаўавальны выступ). Зрубныя пабудовы ацяпляліся печамі-каменкамі, рэшткі якіх у выглядзе развалаў буйных абпаленых камянёў размяшчаліся ў адным з кутоў жытлаў. Гасп. ямы знаходзіліся недалёка ад дамоў. Яны мелі авальную (0,9—2,7×0,9—1,9 м), прамавугольную (1,3—2,8×0,9—1,9 м) або круглую (дыям. 0,9—1,1 м) форму. Сцены прамавугольных ям-паграбоў амаль вертыкальныя, у астатніх — пакатыя. У 5 буйных авальных ямах былі прыступкі. У жытлах знойдзены абломкі гладкасценных гаршкоў (слабапрафіляваных, цюльпанападобных, слоікавых, рабрыстых, з круглаватымі бакамі), місак і міскападобных пасудзін, а таксама жал. сярпы, нажы з прамой спінкай і валютападобным навершам, шылы, наканечнікі кап'я, шпоры, падковападобная фібула, посахападобная шпілька, бронзавы пласціністы бранзалет і бранзалеты, зробленыя з круглых і квадратных у сячэнні стрыжняў, трапецападобныя падвескі, пярсцёнкі, пранізка, абломкі сярэбраных шыйных грыўняў, гліняныя біканічныя праслііцы, тыглі.

Датуецца 6—7 ст.

*Літ.:* 785, 847. *А. А. Егарэйчанка.*

**ГАРАДЗІШЧА**, археал. комплекс каля в. Гарадзішча Пінскага р-на.

Гарадзішча. На высокім мысападобным выступе ўсх. берага воз. Палескае. Пляцоўка авальная, памерам 27×22 м, выцягнута з У на З, злёгку нахілена да возера. Абследавалі ў 1928 Р. Гарашкевіч, у 1961—70 Ю. У. Кухарэнка, Л. Д. Побаль, В. К. Караткевіч, у 1981 В. С. Вяргей, у 1983 і 1986 Вяргей раскапала 200 м². Культурны пласт 2,4—3 м. У верхняй частцы ён моцна пашкоджаны перакопамі, насычаны буд. смеццем. Выяўлены падмурак васьмівугольнай капліцы і пахаванні 18—19 ст., сляды 17 драўляных слупоў. Часткова збярогся вал з пяску выш. 0,7—1,8 м. Залягае на глыб. 1,1—1,2 м. Па яго ўнутранай мяжы ідзе вугальная праслойка ад згарэлых бярвён, якія ляжалі гарызантальна. Каля асновы вонкавага схілу выяўлены рэшткі канструкцыі, што засцерагала вал ад асыпання, на вяршыні — рэшткі двух слупоў. Пад валам — непарушаны культурны пласт 0,7—0,9 м з рэчамі эпохі неаліту, бронзы, мілаградскай і зарубінецкай культур.

Знойдзены крамянёвыя вырабы, жал. нажы, шылы, абломак сярпа, рыбалоўныя кручкі, ромбападобны тронкавы наканечнік стралы, бронзавае скроневае кольца, бочачкападобная шматколерная пацерка, рэшткі металургічнай вытворчасці, гліняныя прасліцы, косці жывёл і інш. Ляпная кераміка прадстаўлена фрагментамі арнаментаванага посуду эпохі неаліту, бронзавага веку, мілаградскай і зарубінецкай культур, але большасць суадносіцца з керамікай культуры тыпу Лукі Райкавецкай 8—10 ст. Гэта пераважна таўстасценныя грубаляпныя конусападобныя і з круглаватымі бакамі гаршкі з гузаватай паверхняй і дамешкам пяску, жарствы або шамоту ў гліне. Часта сценкі арнаментаваны рэзкаламанай хваляй ці хваляй разам з гарызантальнымі лініямі і ямкамі, на венчыках зрэдку пальцавыя ўцісканні, ёсць чарапкі, аздобленыя адбіткамі шнура. Аналагічны посуд знойдзены на паўн. Украіне, паселішчы *Хатомель*. Назіраецца пераход да вырабу ганчарнай керамікі (на некаторых ляпных пасудзінах відаць падпраўка на ганчарным крузе), пазней яна становіцца асноўнай.



Знаходкі з селішча каля в. **Гарадзішча** (Мядзельскі р-н).



Жалезныя восці і рыбалоўны кручок з гарадзішча і селішча **Гарадзішча** (Пінскі р-н).



Шкляныя пацеркі з гарадзішча і селішча **Гарадзішча** (Пінскі р-н).

Селішча. Прылягае да гарадзішча з У, аддзялялася ад яго прыродным ровам. У 1987—88 сумесна з А. В. Іовам даследавана 200 м². Культурны пласт 0,3—1,2 м. Выяўлены рэшткі 2 наземных жытлаў канца 1-га тысячагоддзя з печамі, зробленымі з камянёў і гліны, і вял. падпечнымі ямамі. Рэчавыя знаходкі на селішчы ў асноўным такія ж, як і на гарадзішчы, за выключэннем посуду паморскай культуры 4—3 ст. да н. э. і некалькіх больш позніх тыпаў раннеганчарнай керамікі 11 ст.

Стратыграфічны і рэчавы аналіз раскопак дазваляе меркаваць пра

узнікненне паселішча на беразе возера ў раннім неаліце. Пясчаны вал, што ўмацоўваў мыс, быў насыпаны, верагодна, на рубяжы 7—8 ст. слав. насельніцтвам, якое з Пд ішло на Прыпяць і яе прытокі. Археал. комплекс Г. дае таксама магчымасць прасачыць генетычную сувязь культуры тыпу Лукі Райкавецкай з эпохай Кіеўскай Русі.

*Літ.:* 195, 196. *В. С. Вяргей.*

**ГАРАДО́К,** горад, цэнтр Гарадоцкага р-на, на р. Гаражанка (упадае ў воз. Лугавое). За 39 км ад Віцебска, 2 км ад чыг. ст. Гарадок на лініі Віцебск — Невель, на аўтадарозе Віцебск — Невель. У эпоху сярэднявечча — адзін з паўн. ускраінных населеных пунктаў Віцебскай зямлі. Да 16 ст., відаць, уваходзіў у склад Азярышчанскай воласці ВКЛ з цэнтрам у Азярышчы (цяпер г. п. Езярышча). Пасля заняпаду Езярышчанскага замка і будаўніцтва ў канцы 16 ст. *Гарадоцкага бастыённага замка* Г. стаў цэнтрам акругі. У 1772 уключаны ў склад Расійскай імперыі. У гэты час уся тэр. ўздоўж берагоў Гаражанкі ад воз. Лугавое і ўчастак Узгор'е былі заселены. Цэнтрам стараж.-рус. паселішча (магчыма, гар. пасада) з'яўлялася гарадзішча, што размяшчалася на правым беразе ракі, мела пляцоўку авальнай формы памерам 100×120 м з умацаваннямі па краі (знішчаны пры будаўніцтве Ленінградскай шашы). У адпаведнасці з планіровачнай структурай гар. паселішчаў 16—17 ст. на процілеглым беразе Гаражанкі насупраць стараж. гарадзішча, на высокім мысе, што называўся Узгор'е, быў узведзены замак, які стаў новым цэнтрам і фарміраваў далейшае развіццё гар. вулічнай сеткі. У 1979, 1986—88 В. М. Ляўко праводзіла археал. назіранні, шурфоўку і прарэзку паўн. схілу ўзвышша.

Даследаванні пацвердзілі, што абаронны вал, які праходзіў па краі пляцоўкі, быў зніveліраваны на рубяжы 18—19 ст. Пад нівеліровачным пластом выяўлены культурны пласт 0,7—0,8 м з матэрыяламі 16—17 ст. і больш ранняга часу. У 1988 праведзены раскопкі ў цэнтр. часткі Узгор'я, у культурным пласце 0,5—0,8 м знойдзены адзінкавыя фрагменты ляпной керамікі з шурпатай паверхняй, кераміка 10—13 ст., 14—18 ст. і вырабы з жалеза, шкла, манеты 16—18 ст. Пад развалам каменнай муроўкі царквы і каля яе выяўлены 4 пахаванні па абраду трупапалажэння ў трунах, у адным пахаванні знойдзены ружанец, пацеркі з сіняга шкла, фрагмент крыжа з каляровага металу, бронзавыя пярсцёнак і спражка, арнаментаваная насечкамі. Пахаванні адносіліся да 15—16 ст. і папярэднічалі будаўніцтву мураванай царквы. У час археал. раскопак і назіранняў за буд. работамі ўстаноўлена, што ў жал. веку тут існавала невял. паселішча, у 10—11 ст. яно становіцца пастаянна заселеным. Найб. інтэнсіўныя адкладанні адносяцца да канца 16—18 ст.— часу існавання замка. Рост гар. тэрыторыі ў 17—18 ст. адбываўся ва ўсх. і паўд.-ўсх. напрамках, пра што сведчаць выяўленыя там культурныя напластаванні таўшч. 0,5—1,5 м. У шэрагу выпадкаў у буд. траншэях зафіксаваны 1—2 ярусы драўляных насцілаў вулічных маставых, што пацвярджае стабільнасць планіроўкі вулічнай сеткі.

На паўд.-зах. ускраіне Г. на правым беразе Гаражанкі размяшчаецца *Гарадоцкае селішча.*

*Літ.:* 670. *В. М. Ляўко.*

**ГАРАДО́К,** археал. помнікі каля в. Гарадок Жлобінскага р-на.

С т а я н к а - 1 эпохі *неаліту* і *бронзавага веку.* За 0,5 км на ПдУ ад вёскі, ва ўрочышчы Ляды, на першай надпоймавай тэрасе левага берага Бярэзіны. Пл. 1100 м². Выявіў і абследаваў 500 м² у 1977 Ксяндзоў.



Бронзавыя упрыгожанні з селішча Гарадзішча (Пінскі р-н).



Упрыгожанні з пахаванняў 15—16 ст. у г. **Гарадок.**

Знойдзены фрагменты ляпной керамікі сярэднеднепроўскай культуры (упрыгожана адбіткамі лінейнага штампа, шнура, нарэзкамі), керамікі позняга перыяду бронзавага веку (у гліне дамешак буйназярністага пяску, паверхня пакрыта светлай глінай, венчыкі прамыя, часам адагнутыя, упрыгожана неглыбокімі расчосамі, добра загладжана, на шыйцы гарызантальныя лініі ці рад «жэмчугу»). Сустракаюцца адзінкавыя фрагменты неалітычнай керамікі. З крамянёвых прылад знойдзены свярдзёлак з адшчэпа, двухбакова апрацаваны трохвугольны наканечнік стралы з прамой асновай, праколка з пласціны, нож, скоблі, сячэнні пласцін, трохвугольны, канцавыя і пазногцевыя скрабкі, нуклеусы, рэтушоры, адшчэпы і пласціны.

С т а я н к а - 2 бронзавага веку. За 1,2 км на Пд ад вёскі, на дзюнным пагорку ў пойме левага берага Бярэзіны. Выявіў і даследаваў у 1977 Ксяндзоў. У культурным пласце 0,15 м, прасочаным на пл. 500 м², знойдзены прылады з крэйдавага «сожскага» крэменю (канцавы скрабок, двухбакова апрацаваны наканечнік стралы з тронкамі, нож з пласціністага адшчэпа, адшчэпы, пласціны), фрагменты керамікі, арнаментаванай лінейным штампам у выглядзе ліній і насечак.

С т а я н к а - 3 *сосніцкай культуры.* За 1,5 км на ПнЗ ад вёскі, на пясчаным узгорку першай надпоймавай тэрасы левага берага Бярэзіны. Культурны пласт на пл. 50 м² разбураны ветравой эрозіяй і дарогай. Выявіў і даследаваў у 1977 Ксяндзоў.

Знойдзены фрагменты ляпной керамікі з ружанцавым і кругавым арнаментам, загладжанай паверхняй (венчыкі прамыя з трохвугольным патаўшчэннем на краі, днішчы пляскатыя, у цэсце дамешак жарствы), прылады працы з шэрага крэйдавага крэменю.

С т а я н к а - 4 днепра-дзяснінскай культуры і *днепра-данецкай культуры.* За 3 км на ПдЗ ад вёскі, у нізоўях р. Бярэзіна, на першай надпоймавай тэрасе левага яе берага, на выш. 5—6 м над узроўнем вады. Пл. 1400 м². Адкрыў і даследаваў 44 м² у 1977 У. П. Ксяндзоў.

Выяўлены неалітычны (на глыб. 0,1—0,5 м ад паверхні) і мезалітычны (на глыб. 0,8—1,1 м) культурныя пласты. У мезалітычным пласце знойдзены рэшткі агнішча і гасп. ям, прылады працы з шэрага крэйдавага «сожскага» крэменю: постсвідэрскія наканечнікі стрэл, канцавыя скрабкі, сярэдзінныя і бакавыя разцы, праколкі, вастры, пласціны, укладышы, скоблі, нажы, пласціны і адшчэпы з рэтушшу, нуклеусы. У неалітычным пласце выяўлены рэшткі 3 круглых вогнішчаў, размешчаных па прамой лініі. Знойдзены фрагменты ляпной керамікі з дамешкамі арганікі і пяску ў гліне, арнаментаванай адбіткамі грабеньчыка і наколамі. Крамянёвыя прылады працы (скрабкі, наканечнікі стрэл, пласціны, адшчэпы, нуклеусы, драўняны вугаль, попел, абпаленыя крэмні).

Датуецца 6-м тысячагоддзем да н. э.

Г а р а д з і ш ч а *мілаградскай культуры.* За 250 м на ПдУ ад вёскі, ва ўрочышчы Тарэлка, на левым беразе безназоўнага прытока р. Бярэзіна. Выявіў у 1977 Ксяндзоў, даследавала 16 м² паўн.-зах. часткі пляцоўкі Н. М. Дубіцкая. У культурным пласце да 0,7 м знойдзены фрагменты керамічных пасудзін (часткова арнаментаваныя насечкамі, венчыкі прафіляваныя).

С е л і ш ч а ранняга *жалезнага ве-*

*ку.* За 50 м на ПдЗ ад могілак, на дзюнным пагорку першай надпоймавай тэрасы Бярэзіны. Пл. 400 м². Выявіў і абследаваў у 1977 Ксяндзоў. Культурны пласт 0,2 м. Знойдзены фрагменты грубаляпной таўстасценнай керамікі, абломкі рэчаў з жалеза першых стагоддзяў н. э.

*Літ.:* 619, 624.

*Н. М. Дубіцкая, У. П. Ксяндзоў.*

**ГАРАДО́К,** археал. помнікі каля в. Гарадок Маладзечанскага р-на.

Гарадзішча ранняга жал. веку і сярэднявечча. Мясц. назва Замак. У паўн. частцы вёскі, паблізу р. Бярэзіна. Пляцоўка памерам 60×40 м, выш. 4—5 м над узроўнем вады. Абкружана ровам шыр. 25—30 м, за якім размяшчаецца тэраса шыр. 10—12 м, за ёй — вал выш. да 10 м, часткова разбураны з усх. боку. Тут захавалася пляцоўка дыям. 7 м, дзе, магчыма, стаяла абарончая вежа. Мост цераз роў знаходзіўся на Пд. Даследавалі 72 м² у 1966 Я. Г. Звяруга, у 1973 М. А. Ткачоў, больш за 500 м² у 1989 Г. М. Сагановіч. Ніжні культурны пласт на глыб. 1,5 м пад нівеліраванай падсыпкай пяску і жвіру. На З пляцоўкі выяўлена праслойка пажарышча з абломкамі штрыхаванай керамікі і кавалачкамі жал. шлаку. У верхнім культурным пласце (0,3—0,4 м) знойдзена кераміка 14—17 ст. і вял. колькасць фрагментаў паліхромнай (зялёная, фіялетавая, карычневая, жоўтая, блакітная, белая) і аднаколернай зялёнай кафлі. Арнаментавана традыцыйным раслінным ці геам. малюнкам, узорам з гербам «ружа», сцэнамі палявання, казачнымі сюжэтамі, выявамі чалавека, амура, цмока і інш. Некаторыя даследчыкі звязваюць гарадзішча з летапісным *Гарадцом,* у якім у сярэдзіне 12 ст. княжыў Валадар Глебавіч.

Селішча. Прымыкае да гарадзішча з ПдЗ і З (паміж гарадзішчам і селішчам ёсць паніжаны, часткова забалочаны ўчастак шыр. 20—40 м). Выявіў і абследаваў у 1985 Звяруга. У культурным пласце (0,4—0,5 м) знойдзена кераміка 14—17 ст., адзінкавыя фрагменты посуду эпохі Кіеўскай Русі, кавалкі жал. шлаку, абпаленыя камяні.

*Літ.:* 424, 1200.

*Я. Г. Звяруга, Г. М. Сагановіч.*

**ГАРАДО́К,** гарадзішча каля хутара Гарадок Полацкага р-на. На паўд. беразе воз. Нявіда пры ўпадзенні ў яго безназоўнай рэчкі, на ўзгорку выш. 25 м. Пляцоўка авальная, памерам 35×50 м. На паўд. ускраіне захаваліся рэшткі вала выш. 1,2—1,5 м, даўж. 16 м. Вядомы з 19 ст., даследаваў каля 100 м² у 1979, 1981 В. І. Шадыра. Культурны пласт 0,5—2 м. Выяўлена кераміка днепра-









Паліхромная кафля 14—17 ст. з гарадзішча **Гарадок** (Маладзечанскі р-н).

дзвінскай і банцараўскай культур, фрагменты ганчарнага посуду, гліняныя біканічныя праслііцы, жал. сярпы, нажы, шылы, шпоры, бранзалет. Датуецца 1—13 ст.

*Літ.:* 1314, 1315.

**ГАРАДО́К,** стаянка позняга *мезаліту* днепра-дзяснінскай культуры каля г. Новалукомля Чашніцкага р-на. На паўд.-ўсх. ускраіне горада, ва ўрочышчы Гарадок, на другой надпоймавай тэрасе берага воз. Лукомскае (10—12 м над узроўнем вады). Адкрыў і раскапаў 120 м² у 1968 І. М. Ціханенкаў. Культурны пласт 0,3—0,4 м.

Знойдзены постсвідэрскія і асіметрычныя тронкавыя наканечнікі стрэл з рэтушшу з брушка, канцавыя і авальныя скрабкі, мікраскрабкі, разцы, праколкі, пласціны-ўкладышы, ножападобныя пласціны, пласцінкі з прытупленым рэтушшу краем і без рэтушы, абломкі нуклеусаў, крамянёвая луска.

*Літ.:* 1184.

**ГАРАДО́К,** гарадзішча ранняга *жалезнага веку* каля в. Гарадок Шклоўскага р-на. За 300 м на З ад вёскі, на левым беразе Дняпра, за 1,5 км ад рэчышча, на мысе берагавой тэрасы паміж ярамі. Мясц. назва Барсукова Гара. Пляцоўка авальная, памерам 64×46 м, выш. 17,5—19 м, выцягнута з ПнУ на ПдЗ. З У 2 валы выш. 2 і 3 м, паміж якімі роў глыб. 2,5 м, шыр. 8 м, з ПдЗ невысокі вал. Даследавалі ў 1936 В. Р. Тарасенка, у 1988 А. А. Седзін, абследавалі ў 1977 В. Ф. Капыцін, у 1983 В. М. Ляўко. Культурны пласт 0,45—0,5 м.

Знойдзена шмат фрагментаў штрыхаванага і гладкасценнага ляпнога керамічнага посуду, часткова арнаментаванага, рэшткі глінабітнай печкі-доменцы, шлакі, вогнішча з каменёў.

*Літ.:* 1155. *А. А. Седзін.*

**ГАРАДО́ЦКАЕ СЕ́ЛІШЧА,** археал. помнік у г. Гарадок Віцебскай вобл. На паўд.-зах. ускраіне горада, на першай і часткова другой надпоймавай тэрасах правага берага р. Гаражанка. У 1934 абследаваў А. Дз. Каваленя, у 1986, 1988—89 даследавала В. М. Ляўко, раскапана 560 м² у т. л. 140 м² пад курганом (гл. *Гарадоцкі курганны могільнік*). Культурны пласт 0,4—1 м. Прасочаны сляды жытлаў 6—8 ст. (ямкі ад слупавых канструкцый у мацерыку, развалы агнішчаў з ляпной керамікай, гліняная абмазка, абгарэлае дрэва і інш.). Культурны пласт 3—5 ст. утрымліваў пераважна таўстасценную ляпную кераміку з расчосамі, зашчыпамі, косымі насечкамі па краі венчыка (частка пасудзін мела плечукі). Знойдзена спіралепадобная пацерка з светла-зялёнага шкла 2—3 ст. Ніжні пласт перакрыты цёмна-карычневым пластом 6—9 ст., у якім знойдзены ляпная гладкасценная кераміка, жал. наканечнік кап'я, гліняныя праслііцы і інш. У верхніх напластаваннях знойдзены кераміка 10—12 ст., шкляныя пацеркі, бранзалеты, жал. нажы і інш. рэчы эпохі Кіеўскай Русі, а таксама асобныя прадметы 17—18 ст. (курыльныя люлькі, гліняныя цацкі, посуд). На думку Ляўко, кераміка ніжняга пласта селішча блізкая да матэрыялаў *кіеўскай культуры,* Абідні ў Бел. Падняпроўі, селішчаў і гарадзішчаў у міжрэччы рэк Ловаць і Вялікая на Пскоўшчыне. Знаходкі 8—9 ст.— венчыкі пасудзін з плечукамі тыпу пасудзін доўгіх курганоў Смаленшчыны. Кераміка 6—8 ст. адносіцца да *банцараўскай культуры* і *тушамлінскай культуры.*

*Літ.:* 669. *В. М. Ляўко.*



Рэчы з **Гарадоцкага селішча.**



Фрагменты керамікі з **Гарадоцкага селішча.**

**ГАРАДО́ЦКА ЗДО́ЎБІЦКАЯ КУЛЬТУРА,** археал. культура канца 3-га — 1-й чвэрці 2-га тысячагоддзя да н. э., пашыраная ў Зах. Валыні і паўд. раёнах Валынскага Палесся (ад Случы на У да Зах. Буга на З). Вылучыў І. К. Свешнікаў. Назву атрымала ад паселішчаў каля сёл Гарадок і Здоўбіца (Ровенская вобл.). Падзяляецца на 2 этапы: ранні (гарадоцкі, 21—18 ст. да н. э.) і позні (здоўбіцкі, 18—17 ст. да н. э.). На раннім этапе насельніцтва жыло ў наземных жытлах прамавугольнай або авальнай формы слупавой канструкцыі з адкрытымі агнішчамі пасярэдзіне, карысталася гліннянымі пасудзінамі з шарападобным тулавам, міскамі, амфарамі з 2 ручкамі, крамянёвымі, каменнымі і касцянымі вырабамі. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў скурчаным становішчы на курганных могільніках. На познім этапе вядомы жытлы, у якіх прасочваюцца наземныя і паглыбленыя часткі, грунтавыя пахаванні з трупапалажэннямі, характэрны гліняныя гаршкі з пукатым тулавам, амфары, цыліндрычныя кубкі і чарпакі, крамянёвыя сякеры, сярпы, кінжалы, наканечнікі коп'яў, каменныя зернячёркі, свідраваныя сякеры, касцяныя наканечнікі стрэл, металічныя падвескі, пранізкі, завушніцы, скроневыя кольцы, драцяныя пярсцёнкі, пацеркі і інш. Адзначаецца пэўная тоеснасць Г.-з. к. і *стшыжоўскай культуры* з старажытнасцямі эпохі ранняга бронзавага веку Бел. Палесся, найперш з зах.-палескімі помнікамі. Ёсць некаторае падабенства ў кераміцы, крамянёвых і каменных вырабах. На паселішчы *Камень* (Пінскі р-н) знойдзена бескурганнае пахаванне з пахавальным абрадам трупапалажэння ў скурчаным становішчы. Валынскі ўплыў адзначаецца і на ўсходнепалескіх помніках *сярэднедняпроўскай культуры.* Г.-з. к. была асн. кампанентам больш позняй *тшцінецкай культуры.*

*Літ.:* 86а, 87, 1384. *М. М. Крывальцэвіч.*

**ГАРАДО́ЦКІ БАСТЫЁННЫ ЗАМАК.** Узведзены ў 1-й пал. 17 ст. на надпоймавай тэрасе правага берага р. Гаражанка, на процілеглым баку ад г. Гарадка. Адкрылі і абследавалі ў 1981 М. А. Ткачоў, А. А. Мяцельскі і Г. М. Семянчук. Меў форму пяцівугольніка, разгорнутага выступаючай усх. стараной у бок поля. З Пн, У і часткова З захаваўся абарончы роў глыб. да 3,3 м, шыр. да 16 м. Такімі, відаць, былі і памеры землянога вала, які цяпер зніveліраваны. З паўн. і ўсх. бакоў захаваліся сляды бастыёнаў, якія калісьці размяшчаліся праз кожныя 20 м. Паўн.-зах. ўчастак замчышча прыкрываўся балотам, адкуль выцякаў і ўпадаў у абарончы роў ручай. Пляцоўка замчышча мае значны ўхіл на Пд, разворваецца. Культурны пласт да 0,4 м. Знойдзены нязначныя абломкі посуду 17—18 ст., цвікі, нажы і інш.

*Літ.:* 1195. *М. А. Ткачоў.*

**ГАРАДО́ЦКІ КРАЯЗНА́ЎЧЫ МУЗЕЙ.** Адкрыты ў 1976 у г. Гарадок Віцебскай вобл. Мае каля 100 археал. прадметаў (1991). Экспануюцца косці маманта, каменныя сякеры, зернячёркі, крамянёвыя прылады працы, жал. замкі, ключы, цвікі, падковы, падкоўкі для абцасаў, нажы, сярпы, гліняныя цацкі, праслііцы, посуд, курыльныя люлькі, шкляныя вырабы, бронзавыя ўпрыгожанні з раскопак селішча 3—12 ст., курганнага могільніка часоў Кіеў-

скай Русі, замка 16—17 ст. у Гарадку, гарадзішчаў каля в. Новы Болецк, замка 14—17 ст. у г. п. Езярышча. У нумізматычнай калекцыі куфіцкі дырхем, медныя і сярэбраныя манеты 16—17 ст.

**ГАРАДО́ЦКІ КУРГА́ННЫ МО́ГІЛЬНІК.** На паўд. ускраіне г. Гарадок, на правым беразе р. Гаражанка, каля воз. Лугавое. 4 круглыя курганы выш. 1,1—3,5 м, дыям. 11—13 м і адзін доўгі памерам 25×12 м, выш. 2,5 м, на левым беразе ракі. Выявіў у 1934 А. Дз. Каваленя, абследавалі ў 1971 Г. В. Штыхаў, у 1981 В. М. Ляўко, даследавала 1 курган у 1986 Ляўко. Пахавальны абрад — трупаспаленне (3 урны ў паўд.-ўсх. частцы насыпу).

Пахавальны інвентар — фрагменты трапецападобных бронзавых падвесак з кропкавым арнаментам, сплаў сіняй шкламасы (магчыма, пацеркі), фрагмент дырхема 892—902 Арабскага халіфата, серп. Вакол насыпу выяўлены кальцавыя раўкі шыр. каля 1,9 м, глыб. 0,4 м. У насыпе кургана, створаным з культурнага пласта, знойдзены рэшткі гладкасценнай ляпной неарнаментаванай керамікі банцараўскай і тушамлінскай культур (6—8 ст.). Пад насыпам выяўлены культурны пласт 0,1—0,3 м. Знойдзена ляпная кераміка 3—5 ст., арнаментаваная расчосамі і зашчыпамі па краі венчыка.

*Літ.:* 669, 670. *В. М. Ляўко.*

**ГАРА́НІ,** гарадзішча каля в. Гарані Смаргонскага р-на. За 1,5 км на ПнЗ ад вёскі, на зах. беразе воз. Свір. Займае ўзгорак, паўн. і ўсх. схілы якога стромкія (выш. 7—12 м), паўд. і заходні спусцістыя. Пляцоўка трохвугольная, памерам 75×60 м. Штучных умацаванняў няма. Выявіў у 1978 і даследаваў 680 м² у 1981 Я. Г. Звяруга. Культурны пласт ад 0,3 — 0,5 м па краях пляцоўкі да 2—2,5 м у цэнтры.

Выяўлены рэшткі наземных жытлаў з агнішчамі, абкладзенымі камянямі. Знойдзена шмат вырабаў з косці (наканечнікі коп'яў і стрэл, муфты-насадкі, долаты, тронкі, шпількі, іголкі, праколкі, амулеты, музычныя інструменты тыпу жалейкі), каменю (больш за 50 шліфаваных сякер-кліноў і каля 10 прасвідраваных сякер), жалеза (сярпы, сякеры, наканечнікі стрэл, нажы, рыбалоўныя кручкі, іголкі, шпількі), гліны (праслііцы, тыглі, грузілы для сетак, мініяцюрныя рытуальныя пасудзіны, тачыльныя камяні, абломкі зерняцёрак), ляпная гладкасценная і штрыхаваная кераміка, фрагменты ганчарнага посуду.

Датуецца 1-м тысячагоддзем да н. э.— пач. 2-га тысячагоддзя н. э.

*Літ.:* 428. 435. *Я. Г. Звяруга.*

**ГАРАЎЛЯ́НСКІЯ МАНЕ́ТНА-РЭЧАВЫЯ СКАРБЫ.** Знойдзены на паселішчы каля в. Гараўляны Глыбоцкага р-на ў 1965 1) У ляпным гліняным гаршку былі фрагментаваныя ювелірныя вырабы з серабра (2 фрагменты 4-граннага ў сячэнні дроту, 3 фрагменты і 1 цэлая загатоўка для пласціністага бранзалета, зашчыпка), фрагменты пасудзіны, шыфернае праслііца, 405 сярэбраных манет. **Арабскі халіфат** (220 пераважна фрагментаваных куфіцкіх дырхемаў): Абасіды — невядомы манетны двор; Саманіды — манетныя двары аш-Шаш, Бухара, Рашт, Самарканд; Бавендыды — манетны двор Фірым; Буіды (Бувайхіды) — манетныя двары Араджан, Амоль, Астарабад, Джурджан, Ідзедж, Ісбахан, Рамхармуз, Сук ал-Ахваз, Шыраз; Зіярыды — манетныя двары Амоль, Астарабад, Джурджан, Сарыя; правіцелі Нісабура — манетны двор Нісабур; Хамданіды — манетныя двары ал-Мусіл, Халеб; г. Булгар — манетаперайманне саманідскага дырхема — манетны двор аш-Шаш. **Англія, Германія, Францыя, Чэхія** — 185 дэнарыяў. Ухаваны ў сярэдзіне 11 ст. Зберагаецца скарб у Нумізматычным кабінеце БДУ. 2) У ляпным гаршку знаходзіліся цэлыя і фрагментаваныя ювелірныя вырабы з серабра (бранзалеты, пярсцёнак, загатоўкі для ювелірных вырабаў), 15 манет-перайманняў куфіцкіх дырхемаў у выглядзе брактэатаў з вушкамі для падвешвання, шкляныя бочачкападобныя залачоныя пацеркі, 135 пераважна фрагмен-



Доўгі курган з **Гарадоцкага курганнага могільніка.**




**Гарматы** 16—17 ст. з Нясвіжскага замка (1—3).

таваных сярэбраных манет. Арабскі халіфат (134 куфіцкія дырхемы): Абасіды — манетны двор Мадзінат ас-Салам; Саманіды — манетныя двары Андэраба, аш-Шаш, Балх, Бухара, Самарканд; Абу-Даўдыды — манетны двор Андэраба; Бувайхіды — манетныя двары Араджан, Шыраз; Зіярыды — манетныя двары Джурджан, Сарыя. Чэхія: Баляслаў III [999—1003], дэнарый. Ухаваны ў сярэдзіне 11 ст. Зберагаецца ў *Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі.* Скарбы, магчыма, з'яўляюцца сыравіннымі зберажэннямі ювеліра.

*Літ.:* 1571. *В. Н. Рабцэвіч.*

**ГАРЛА́Ч,** гладыш, стаўбун, ганчарны выраб; высокая гліняная пасудзіна з пукатымі бакамі і звужанай шыйкай. У 10—14 ст. сустракаўся на Беларусі (гаршкі з вертыкальным горлам). Найб. пашыраны з 17 ст., выкарыстоўваўся для малака. У пісьмовых крыніцах стараж.-рус. часу вядомы пад назвай «кринъ». Выраблялі непаліраваныя, чорназадымленыя, глянцаваныя.

**ГАРМА́ТА,** агульная назва ўсіх відаў артылерыйскай агнястрэльнай зброі. На Беларусі Г. ўпершыню выкарысталі ням. рыцары. У пач. 1380-х г. імі карысталіся войскі Вял. кн. Літоўскага. Першыя Г. адлівалі з бронзы ці кавалі з жалеза. Стралялі каменнымі ядрамі на адлегласць да 200 м. Для аблогі і разбурэння мураваных умацаванняў выкарыстоўвалі найб. цяжкія і кароткія — марціры і бамбарды. У 15 ст. паявіліся лёгкія Г. з падоўжаным ствалом, у 16 ст.— доўгія Г., якія ў залежнасці ад даўжыні ствала і яго вагі падзяляліся на розныя тыпы (картавуны, фальконы, кулеўрыны і інш.). На Беларусі вытворчасць Г. пачалася ў канцы 16 ст. ў Нясвіжы, Слуцку, Быхаве і інш. гарадах.

**ГАРНЯ́ТЫ,** селішча каля в. Гарняты Лідскага р-на. У цэнтры вёскі. Пл. 0,5 га. Адкрыла ў 1955 Ф. Д. Гурэвіч, даследаваў у 1973 А. Р. Мітрафанаў. Культурны пласт 0,2 м. Знойдзена ляпная і ганчарная кераміка. Датуецца канцом 1-га — пач. 2-га тысячагоддзя н.э.

*Літ.:* 272.

**ГАРО́ДНЯ,** гарадня, прамавугольны зруб з бярвён ці брусоў, тып *абарончага збудавання.* Шэраг Г., шчыльна пастаўленых адна да адной тарцамі, утваралі абарончую сцяну. Г. маглі засыпацца паміж сценамі зямлёй ці каменнем, пустыя зрубы выкарыстоўвалі як укрыцце («схаванье») для жыхароў горада і хатняга скарбу на час аблогі або як склад правіянту (жытніца, «спіхлеры») на выпадак вайны. Будавалі 1-ярусныя (выш. 3—4 м) і 2—3-ярусныя. У верхняй частцы Г. насцілалі баявую галерэю («бланкаванне», «вуліца») з абломамі і *байніцамі,* перакрытую 2-схільнай гонтавай страхой. Сценкі, звернутыя ў бок поля, рабілі таўшч. у 2—5 бярвён для большай трываласці (напр., *Полацкі Верхні замак*). Для зберажэння ад гніення і пажараў сцены абмазвалі глінай да ўзроўню галерэі. Г. выкарыстоўвалі для абароны драўляных замкаў большасці гарадоў Беларусі з часоў Кіеўскай Русі (Віцебскі Узгорскі замак, замкі Полацка, Мсціслава, Крычава, Слаўгарада, Гомеля, Мазыра і інш.). Рэшткі Г. 13 ст. выяўлены ў Навагрудку (гл. *Навагрудскі Малы замак*), згарэлага бланкавання ў Гродне (гл. *Гродзенскі Стары замак*).

*Літ.:* 1200. *М. А. Ткачоў.*





Гараўлянскія манетна-рэчавыя скарбы.



Дымлены гарлач 18 ст. Мсціслаў.

**ГАРО́ШКАЎ,** комплекс археал. помнікаў ранняга жал. веку каля в. Гарошкаў Рэчыцкага р-на.

Гарадзішча *мілаградскай культуры.* У вёсцы, на правым беразе Дняпра, ва ўрочышчы Гарадок. Пляцоўка памерам 2 га, трохвугольная ў плане, падзелена ўнутраным валам (выш. 2 м, шыр. 12 м) на 2 часткі: жылую пл. 5200 м$^2$, на мысе, і нежылую, размешчаную паміж унутраным і знешнім (выш. 3,5 м, шыр. 16 м) валамі. Адкрыў у канцы 19 ст. У. З. Завітневіч, абследавалі ў 1935 А. Дз. Каваленя, у 1952 Ю. У. Кухарэнка, у 1964—67 Л. Д. Побаль, у 1976 Г. В. Штыхаў, у 1985 і 1988 М. І. Лашанкоў, даследавала 5400 м$^2$ у 1954 і 1961 В. М. Мельнікоўская. Культурны пласт 0,6 м. Выяўлены рэшткі 20 наземных і паўзямлянкавых жытлаў слупавой канструкцыі, размешчаных скучана ў цэнтр. частцы жылой пляцоўкі.

Жытлы квадратныя, прамавугольныя, круглыя, авальныя пл. 9—50 м$^2$ (боль-

шасць — 12—16 м²), заглыбленыя ў мацярык на 0,25—0,6 м, разлічаны на адну сям'ю. Уваходы з усх. і паўд.-усх. бакоў. Для будаўніцтва сцен выкарыстаны 2 прыёмы: плятнёвы, калі паміж слупамі ставілася шчыльная плятнёвая агароджа, або з пакладзеных гарызантальна тонкіх бярвён ці жэрдак, якія мацаваліся ў пазах слупоў. Характэрная асаблівасць жытлаў — наяўнасць выступу прамавугольнай, круглай ці авальнай формы ў адной з сцен або вуглоў. Двухсхільны дах мацаваўся на сохах — высокіх слупах з развілкай, усярэдзіне жылля падтрымліваўся цэнтр. слупам. Агнішчы размешчаны паміж цэнтр. слупам і сцяной у процілеглым ад увахода баку, у круглых ці авальных ямах глыб. 0,4—0,5 м або на падлозе, абкладзены камянямі. Двары агароджаны плятнём. Выяўлены рэшткі культавай пабудовы (за валам гарадзішча, памерам 8,5×1,5 м), заглыбленай у мацярык на 0,5 м. Гасп. пабудовы прамавугольнай, зрэдку квадратнай, формы памерам 2×1,5 і 2×2,5 м, групаваліся паблізу жытлаў. Некаторыя выкарыстоўваліся жыхарамі ў вытворчых мэтах. Каля кожнага жытла — невял. склеп-яма глыб. каля 0,6 м, дыям. да 1,5 м, з прыступкамі і пакрыццём у выглядзе будана. У 4 ямах знойдзены скарбы: у адным жал. прылады працы (сярпы, матыка, сякера), у 3 — упрыгожанні (бронзавыя бранзалеты, паставыя каралі). Знойдзены крамянёвыя прылады працы (сякеры, адшчэпы), дзесяткі нажоў, 14 сярпоў, камяні зерняцёрак, таўкачы-расціральнікі, наканечнікі стрэл, рыштунак каня (бронзавыя бляхі з петлямі, званочкі, жал. кольцы, ланцуг з аброці), касцяныя дзяржанні шыла і нажа з арнаментам, пацеркі (паставыя, халцэдонавыя, гліняныя, бронзавыя, бурштынавыя), бранзалеты (круглыя, вітыя, спіралепадобныя) з серабра, жалеза, бронзы, 10 шпілек (цвіка-, трапеца- і посахападобныя, з кальцавым навершам), трохвугольныя падвескі, пярсцёнкі з заходзячымі канцамі, завушніцы з канічнымі і пукатымі шчыткамі, 4 абломкі латэнскіх фібул, 600 гліняных грузікаў і прасліц, 90 фрагментаў фігурак жывёлін, ляпны кругладонны і гладкасценны посуд, абломкі ліцейных форм, льячак і тыгляў, больш за 10 тыс. касцей хатняй (каня, дробнай рагатай жывёлы, свінні, сабакі) і дзікай (тура ці ізюбра, лася, высакароднага аленя, дзіка, мядзведзя, бабра, барсука) жывёлы.

Датуецца 4—1 ст. да н.э.

Бескурганны могільнік-1 мілаградскай культуры. Паміж валамі гарадзішча (нежылая пляцоўка) і часткова за знешнім валам. Даследавала каля 100 пахаванняў у 1954—55 і 1959—61 Мельнікоўская. Трупаспаленні знаходзіліся ў круглых (дыям. 0,4—1,6 м) ці прадаўгаватых ямах глыбінёй 0,5—1 м з нахіленымі сценкамі і чашападобным або плоскім (з ямкамі для рэшткаў трупаспалення) дном. Некаторыя ямы папарна сутыкаюцца краямі, утвараючы васьмёрку, перакрыты адным развалам пасудзіны (магчыма, парныя пахаванні).

Знойдзены крамянёвыя прылады працы, прасліцы, кавалачкі шлакаў, жал. наканечнік стралы, бронзавая шпілька з S-падобнай галоўкай, бронзавае скроневае кольца з выступамі, жал. спіралепадобная праколка, каралі, абломкі бранзалетаў, ліцейных форм, льячак, кавалачкі чырвонай і жоўтай вохры. Для пахаванняў мілаградскай культуры характэрна невял. колькасць касцей чалавека старанна ачышчаных ад вогнішча, небагаты інвентар, у т. л. толькі частка адной або некалькіх пасудзін і камяні невял. памераў. На жылой пляцоўцы выяўлены 2 пахаванні па абраду трупапалажэння на спіне, адно — галавой на ПнУ, другое (на вяршыні ўнутранага вала) — на З.

Датуецца 3—2 ст. да н.э.

Селішча-1 мілаградскай культуры. У вёсцы, з паўн. боку гарадзішча. Даследавала 400 м² у 1954—55 і 1960 Мельнікоўская. Раскопкі паказалі, што існавала яно кароткі час. Культурны пласт слаба выражаны. Знойдзены рэшткі заглыбленай у мацярык пабудовы, шмат абломкаў посуду, значная частка якога аздоблена жамчужным арнаментам. Датуецца 6 ст. да н.э.

Селішча-2 *зарубінецкай культуры*. За 200—300 м на Пн ад гарадзішча, уздоўж правага берага Дняпра. Даследавала 135 м² у 1959 Мельнікоўская. На глыб. 0,25—0,3 м выяўлены рэшткі квадратнай у плане пабудовы памерам 6×6 м. Знойдзена раннезарубінецкая кераміка.

Бескурганны могільнік-2 зарубінецкай культуры. За 100—200 м на Пн ад гарадзішча, уздоўж правага берага Дняпра. Даследавала 170 м² у 1958 Мельнікоўская. Выяўлена 5 пахаванняў з трупаспаленнем у круглых (2) і падоўжаных (3) ямах.

Знойдзены фрагменты ляпнога по-



Бранзалеты з гарадзішча **Гарошкаў**.



Бронзавыя бранзалеты з гарадзішча **Гарошкаў**. 4—5 ст.



Жалезныя матычка і сякера з гарадзішча **Гарошкаў**.



Гліняная фігурка каня з гарадзішча **Гарошкаў**.

суду, вугольчыкі, камяні, наканечнік кап'я, нож з гарбатай спінкай, бронзавая авальная бляха з крыжападобнымі ўціскаяннямі пасярэдзіне і кропкавымі па краях, бронзавыя скроневае кольца і ланцужок з трубачак, жал. фібулы (падкавападобная і сярэднелатэнская з трохвугольным шчыткам).

Датуецца 1 ст. да н.э.

*Літ.*: 772, 847. *М. І. Лашанкоў.*

**ГАРПУН**, кідальная зброя для палявання на звяроў і рыб; востры зубчасты наканечнік з каменю, косці ці металу, змацаваны з драўляным дзяржаннем. Пры ўдары наканечнік застаецца ў целе жывёліны. Вядомы з фінальнага палеаліту. У мезаліце зубцы наканечніка рабілі з крамянёвых укладышаў. Найбольш стараж. Г. знойдзены на тарфянікавых стаянках ці ў вадаёмах (*Асавец, Зацэнне* і інш.).

**ГАРТ**, дадатковая апрацоўка непаліваных ганчарных вырабаў для атрымання стракатай плямістай паверхні (кераміка рабая, абварная). Атрымліваецца ў выніку гартавання, г. зн. абварвання ў рошчыне з мукі з дабаўкамі попелу, квасу, кастрыцы распаленага дачырвана посуду. Вырабы набываюць большую тэрмічную ўстойлівасць і прыгажосць. Спосаб Г. вядомы з 12—13 ст., пашыраны ў познім сярэднявеччы на ўсёй Беларусі, за выключэннем усх. Палесся.

*Літ.*: 1045.

**ГАРШЧО́К**, гліняная пасудзіна для гатавання гарачай стравы і захавання сыпкіх прадуктаў. Акрамя прамога функцыянальнага прызначэння, у археал. даследаваннях асаблівае значэнне маюць форма, тэхналогія вырабу і арнаментацыя Г. для вызначэння ўстойлівасці традыцый у розных груп насельніцтва, часу існавання, этнічнай прыналежнасці помніка, генетычнай сувязі паміж асобнымі культурамі, археал. спецыфіка культуры і інш. Г. як масавы археал. матэрыял патрабуюць адзінай сістэмы апрацоўкі, выкарыстання статыстычнага і параўнальнага аналізу. Для характарыстыкі комплексаў керамікі неабходны адзіная тэхналогія, методыка атрымання характарыстык, катэгорыі і групы паказчыкаў, іх адносныя і абсалютныя велічыні. Пры вялікай разнастайнасці канкрэтных форм Г. маюць агульныя састаўныя часткі: гарлавіну, тулава і дно. Гарлавіна (верхняя частка Г., яго вусце) уключае венчык (верхні абрэз або край), шыйку (верхняя частка пасудзіны асаблівай формы), аснову шыйкі (месца пераходу ад шыйкі да тулава); тулава — асноўная ёмістасць Г., складаецца з плечука (верхняя частка тулава ад асновы шыйкі), самога тулава і прыдоннай часткі (ніжняя пераходная частка ад найб. дыяметра тулава да дна). Дно — аснова гаршка. Характарыстыка Г. складаецца па 4 асноўных катэгорыях паказчыкаў: абсалютныя памеры (дыяметры па венчыку, аснове шыйкі, найбольшы дыяметр тулава дна, вышыня шыйкі, плечука, прыдоннай часткі, форма, арнаментацыя (элементы малюнка, тэхніка іх выканання, ступень, насычанасць малюнка), тэхналогія вырабу (састаў гліны, тэхніка апрацоўкі паверхні Г., абпальванне). Посуд з гліны вынайдзены ў неаліце, таму Г.— вызначальная рэч гэтай эпохі.

Найбольш стараж. Г.— ляпныя, розных памераў, мелі канічную форму тулава, найчасцей з шырокім вусцем, тоўстымі сценкамі. Для трываласці посуду ў гліну дамешвалі драбнарэзаную траву або тоўчаныя ракавіны. Арнаментацыя іх складалася з ямкавых уціскканняў, адбіткаў грабеньчыка, пракрэсленых ліній і інш. У познім неаліце ў гліну дамешвалі жарству ці буйназярністы пясок, сценкі пасудзін сталі больш тонкія. Разам з вастрадоннымі Г. сталі выкарыстоўвацца кругла- і пласкадонныя, багацейшай стала арнаментацыя (гарызантальныя палосы на тулаве, утвораныя ямкамі і пракрэсленымі лініямі наколаў, лініямі грабеньчыка). У бронзавым веку пераважалі Г. з шарападобным або яйцападобным тулавам або пляскатым дном, звужанай шыйкай і адагнутым венчыкам. У гліну дамешвалі пясок, жарству, шамот. Арнаментавалі Г. адбіткамі перакручанай вяровачкі, палачкай, абматанай шнуром, лінейным або зубчастым штампам, разнымі лініямі. У Г. сярэднедняпроўскай, тшцінецкай культур найб. арнаментавана яго верхняя частка (заштрыхаваныя трохвугольнікі, ёлачныя ўзоры, гарызантальныя і дыяганальныя радкі, зігзагі). Для Г. жал. веку характэрна разнастайнасць форм і далейшае ўдасканаленне тэхналогіі іх выпрацоўкі. Г. мілаградскай і зарубінецкай культур



Да арт. **Гарт**. Фрагмент гартаванага гаршка канца 17—1-й пал. 18 ст. Мсціслаў.




Назвы асобных частак **гаршка**: венчык (1), шыйка (2), аснова шыйкі (3), плячук (4), прыдонная частка (5), тулава (6), дно (7).




Параметры **гаршка**: дыяметры — па венчыку (1), па аснове шыйкі (2), найбольшы па тулаве (3), дне (4); вышыні — агульная (5), шыйкі (6), плечука (7), прыдоннай часткі (8).



Ляпныя **гаршкі** з могільніка Юркавічы Веткаўскага р-на.



**Гаршчок** 12 ст. Гродна.



Паліваны **гаршчок** сярэдзіны 17 ст. Мсціслаў.

(на Пд Беларусі) былі глянцаваныя, па краі венчыкаў упрыгожаны зашчыпамі і насечкамі, штрыхаванай keramiki культуры (цэнтр. раёны Беларусі) — востра-рэберныя, на Пн пераважалі слоікападобныя Г., арнаментаваныя скразнымі адтулінамі, ямкамі, лініямі. Г. банцараўскай культуры былі неарнаментаваныя. Г. крывічоў (культура доўгіх курганоў Паўн. Беларусі) мелі плячук, які выступаў у верхняй частцы, і шыйку з адагнутым ці прамым венчыкам; некаторыя з іх арнаментаваны па краі насечкамі ці зашчыпамі.

З 10 ст. пашыраецца выраб Г. на ручным *ганчарным крузе*, што садзейнічала вырабу танкасценнага посуду з моцнапрафіляваным тулавам і выразным венчыкам розных контураў. У 10—11 ст. найб. распаўсюджаны Г. са знешнім выступам на верхняй частцы (карнізік або манжэта) і рыфленым тулавам, усю іх паверхню пакрываў лінейны *арнамент*. У 12—13 ст. пераважалі Г. сярэдніх памераў з хвалістым ці лінейным арнаментам на плечуках, высокай шыйкай і краем, прыстасаваным для накрыўкі. На днішчах сустракаюцца *клеймы*. У 13—15 ст. у зах. рэгіёнах Беларусі Г. мелі S-падобны профіль або выразнае рабро на плечуку, былі арнаментаваны адна- ці шматраднымі хвалямі або простым рыфленнем; ва ўсх. рэгіёнах Г. мелі авальнае тулава і амаль цыліндрычную шыйку, былі арнаментаваны пераважна наколкамі і насечкамі; на Палессі захоўваўся раўчук па краі венчыка, была петлепадобная ручка, арнамент дапаўняўся 2—3 рыфленымі стужкамі. З канца 15 ст. пачалася вытворчасць паліваных, задымленых, пазней і чорнаглянцаваных, пакрытых ангобам Г. З 16 ст. з пераходам на нажны круг Г. набылі больш прысадзістую форму і звычайна не арнаментаваліся, за выключэннем Магілёўшчыны, дзе хвалісты ці серпападобны арнамент захаваўся да канца 17 ст. На працягу 18 ст. форма гліняных Г. наблізілася да формы чыгунка.

*Літ.*: 221а, 847, 1286.

*А. А. Егарэйчанка, Н. І. Здановіч.*

**ГАРЫВАДА,** курганны могільнік *дрыгавічоў* каля в. Гарывада Рэчыцкага р-на. За 2 км на У ад вёскі. У 1890 У. З. Завітневіч даследаваў 8 курганоў. Пахавальныя абрады — трупаспаленне на гарызонце (3) і трупапалажэнне на гарызонце галавой на З і Пн (5). Знойдзены бранзалетападобныя скроневыя кольцы, караліз пацерак і бразготак, спражка, бранзалет, крэсіва, нажы, гаршкі.

*Літ.*: 379, 1340.

**ГАРЭЦКІ** Гаўрыла Іванавіч [28.3(10.4). 1900, в. Малая Багацькаўка Мсціслаўскага р-на — 20.11.1988], беларускі геолаг. Акад. АН БССР (1928), д-р геолага-мінералагічных навук (1946). Заслужаны дзеяч навукі БССР (1972). Скончыў Маскоўскую с.-г. акадэмію (1924). З 1927 дырэктар Бел. НДІ сельскай і лясной гаспадаркі. Незаконна арыштаваны ў 1930, датэрмінова вызвалены ў 1934. У 1931—41 працаваў у інжынерна-геалагічных экспедыцыях, у 1943—68— у арганізацыях Гідрапраекта СССР. Рэабілітаваны 22.4.1958. З 1969 заг. аддзела геалогіі і палеапатамалогіі антрапагену Ін-та геахіміі і геафізікі АН БССР. Удзельнічаў у раскопках сектара археалогіі Ін-та гісторыі АН БССР верхнепалеалітычных стаянак *Бердыж* і *Юравічы,* што дазволіла яму зрабіць важныя вывады аб умовах залягання культурнага пласта, а таксама *Елісеевічы* і *Юдзінава* (Бранская вобл). Пры вывучэнні даліны р. Нёман адкрыў стаянкі каменнага веку (Кавальцы, Беліца і інш.). Старшыня Сав. секцыі Міжнар. саюза па вывучэнні чацвярцічнага перыяду. Як старшыня Камісіі па вывучэнні чацвярцічнага перыяду пры АН СССР і Бел. антрапагенавай камісіі прымаў удзел у арганізацыі Міжнар. рабочай нарады па стратыграфіі і перыядызацыі палеаліту Усх. Еўропы (1959) і Міжнар. сімпозіума па вывучэнню палеаліту Усх. Еўропы (1965). Дзярж. прэмія СССР 1971.

*Літ.*: 129.

**ГАСПАДАРЧА - КУЛЬТУРНАЯ КЛАСІФІКАЦЫЯ** ў археалогіі, класіфікацыя этнасаў (родаў, плямён, народнасцей) па тыпах гасп. дзейнасці і культуры, асн. рысы якіх абумоўліваюцца эканомікай. Гаспадарча-культурныя тыпы (ГКТ) фарміруюцца ў працэсе гіст. развіцця і з'яўляюцца вынікам прыстасавання гасп. дзейнасці этнасу да навакольнага асяроддзя. Наяўнасць пэўнага ГКТ незалежна ад этнічнага складу вызначаецца экалогіяй, жыццядзейнасцю ў пэўнай прыродна-геаграфічнай зоне, узроўнем развіцця прадукцыйных сіл, гасп. і культурнымі традыцыямі насельніцтва, характэрнымі для адпаведнай эпохі. Падабенства ГКТ можа існаваць у этнічна розных груп насельніцтва і ў розныя гіст. эпохі. Наадварот, адзін этнас можа развіваць розныя ГКТ у залежнасці ад месца жыхарства пры адначасовым захаванні этнічна-вызначальных прыкмет у складзе культуры (скіфы-земляробы і скіфы-жывёлаводы). Кожная эпоха характарызуецца пэўным наборам ГКТ, з іх вылучаюцца пануючыя, якія найб. адпавядаюць агульнаму ўзроўню грамадска-эканам. развіцця. Нераўнамернасць гіст. працэсу вядзе да звужэння адных, пашырэння іншых і нават складання новых, больш прагрэсіўных ГКТ. Гасп.-культурныя тыпы аб'ядноўваюцца ў групы па эпохах, рэгіёнах, відах гасп. дзейнасці і інш.

Першабытнаму ладу ў эпоху палеаліту характэрны тыпы вандроўнікаў-збіральнікаў, аселых паляўнічых на маманта, вандроўных паляўнічых на паўн. аленя, у эпоху мезаліту — тып вандроўных паляўнічых на лясную дзічыну, у эпоху неаліту — тыпы аселых рыбаловаў, матычных, або ручных, земляробаў. Да нашага часу захаваліся перажытачныя (архаічныя) тыпы аселарыбалоўнай гаспадаркі ў народаў Сібіры, аленегадоўчай у жыхароў тундры, паляўнічых-збіральнікаў у тропіках Цэнтр. Афрыкі і Паўд. Амерыкі, марскіх паляўнічых на ўзбярэжжы Паўн. Ледавітага акіяна і інш. У сувязі з пашырэннем вытворчай гаспадаркі (розных сістэм земляробства, жывёлагадоўлі) і ўзнікненнем грамадскага падзелу працы вызначыліся спецыялізаваныя тыпы плужных земляробаў-жывёлаводаў, паліўнога ападзельнага земляробства, стэпавай жывёлагадоўлі, марскога промыслу і інш. Г.-к. к. выкарыстоўваецца ў археалогіі, гісторыі, этнаграфіі і палеаэтнаграфіі. Пры даследаванні археалагічных культур абавязкова вызначаецца ГКТ і ў адпаведнасці з этнагр. аналогіямі — грамадска-эканам. лад, гістарычна абумоўлены ўзровень развіцця пэўнага этнасу-носьбіта культуры.

*У. Ф. Ісаенка.*

**ГАСЦІНЕЦ,** грашовы штраф, ліхвярскі працэнт з сумы, дадзенай пад залог. Першае ўпамінанне ў бел. крыніцах адносіцца да 7.6.1541 (Гродна), апошняе — да 12.3.1580 (Магілеў).

**ГАТАВІЗНА,** грашовая сума, выражаная ў рэальнай манеце. Першае ўпамінанне ў бел. пісьмовых крыніцах з сярэдзіны 1480-х г., сістэматычнае — да канца 1-й чвэрці 16 ст., спарадычнае — да 2-й трэці 17 ст. Для грашовай гаспадаркі Беларусі 16—18 ст. былі характэрны з аднаго боку такі архаізм, як разлік таварагрошамі, з другога боку развітыя крэдытныя ўзаемаадносіны. Г. проціпастаўлялася таварам, фантам (рухомая маёмасць), пазыковым дакументам (вэксальным, залогавым і інш.). У канцы 15—18 ст. ўжываліся сінанімічныя Г. паняцці — грошы (*пеназі*) гатовыя, рукаёмныя (плата манетай), паднесеныя, адлічаныя.

**ГАТОВІНА,** курганны могільнік каля в. Гатовіна Мінскага р-на. За 1 км на Пд ад вёскі, на пагорку. 68 круглых насыпаў (частка разбурана буд. работамі) выш. 0,3—2,5 м, дыям. 4—12 м, многія маюць раўкі па перыметры; адзін прадаўгаваты памерам 12×8 м, выцягнуты па лініі З—У. Выявіў у 1988 М. М. Чарняўскі, у 1988—89 Г. М. Семянчук даследаваў 15 насыпаў. Усе маюць попельна-вугальную праслойку каля мацерыка. Адзін курган без слядоў пахавання, 14 мелі каменныя абкладкі. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на грунце (8) і ў падкурганных ямах (7), адзін шкілет ляжаў у яме, абкладзенай камянямі галавой на У ці на З. Знойдзены крывіцкія медныя скроневыя кольцы з завязанымі канцамі, шкляныя залачоныя і пасярэбраныя пацеркі

ноеўдакручаны пярсцёнак, гаршкі, косці жывёлы. Датуецца 12—13 ст.
*Г. М. Семянчук.*

**ГА́ЎСМАН** Міхаіл Антонавіч (1817—1889), калекцыянер, краязнавец, археолаг. Скончыў Мазырскую гімназію (1834), працаваў сакратаром канцылярыі Мінскага дэпутацкага дваранскага сходу. У адным з уласных дамоў у Мінску арганізаваў дамашні музей, дзе экспанаваліся прадметы з праведзеных ім археал. экспедыцый у Навагрудку, Заслаўі, Уздзе, Мар'інай Горцы, Слуцку і інш. Дапамагаў яму ў краязнаўчай працы Люцыян Неслухоўскі — бацька паэта Янкі Лучыны. У зборах Г. было шмат прадметаў побыту беларусаў. Апублікаваў шэраг краязнаўчых прац пра гарады і мястэчкі Беларусі. Яго калекцыі часта выстаўляліся на арганізаваных ім самім выстаўках. Галоўнай задачай Г. лічыў прыцягненне ўвагі навук. грамадскасці да вывучэння і захавання стараж. помнікаў і напісання гісторыі адметных у мінулым населеных месцаў.

*Літ.:* 513. *Г. А. Каханоўскі.*





Гаршкі 12—13 ст. з курганнага могільніка **Гатовіна**.

**ГВАРДЗЕ́ЙСКАЯ,** гарадзішча *днепра-дзвінскай культуры* каля в.Гвардзейская Міёрскага р-на. За 700 м на З ад вёскі, за 600 м ад левага берага Зах. Дзвіны. Мясц. назва Гарадзец. Пабудавана на стрэлцы доўгага ўзвышша. Пляцоўка авальная, даўж. 42 м, шыр. 27 м, выш. да 12 м. Умацавана валамі і равамі. 4 валы размешчаны на паўд.-зах. схіле, 1 — на паўн.-ўсх., паўд.-зах. і ўсх. схілах узгорка. Выш. валоў 0,3—1,1 м, шыр. ў асновы 3—12 м, шыр. равоў 2,5—11 м, глыб. 0,3—1 м. Упершыню ўведзена ў навуку ў 1893. Абследавалі ў 1930-я г. У. Галубовіч, Г. Цэгак-Галубовіч, у 1956 Я. Г. Краскоўская і Л. Д. Побаль, у 1974 А. Р. Мітрафанаў і В. І. Шадыра. У 1984 Шадыра правёў шурфоўку. Культурны пласт у цэнтры пляцоўкі — 0,3—0,6 м, па краях да 1,3 м. Выяўлена яма памерам 3×2 м, глыб. 0,3—0,4 м, у запаўненні якой знойдзена ляпная гладкасценная кераміка, вугалі, абпаленыя камяні. У больш позні час гарадзішча выкарыстоўвалася як схovішча. Датуецца 1—4 ст. *В. І. Шадыра.*

**ГЕАМАРФАЛО́ГІЯ** (грэч. gē зямля + morphē форма + lógos навука), навука пра паходжанне, заканамернасці развіцця і вонкавыя прыкметы рэльефу сушы і дна акіянаў. Г. падзяляюць на агульную, што вывучае формы рэльефу наогул, і рэгіянальную, якая даследуе рэльеф пэўнай тэрыторыі; існуе таксама шэраг самастойных галін Г.— структурная, кліматычная, дынамічная і інш. Заснавальнікам Г. ў Расіі быў М. В. Ламаносаў, які ўпершыню паставіў пытанне пра ўтварэнне разнастайных форм рэльефу ў выніку ўзаемадзеяння знешніх і ўнутраных фактараў. Для вывучэння рэльефу Г. выкарыстоўвае геалагічныя, тэктанічныя і палеаграфічныя звесткі. Геамарфалагічныя карты, якія складаюцца ў выніку геамарфалагічных даследаванняў, шырока выкарыстоўваюцца ў розных галінах навук, у т. л. ў археалогіі. Каб ведаць найб. прыдатныя для жыцця людзей у старадаўнія часы месцы, пры археал. пошуках карыстаюцца геамарфалагічнымі картамі.

*Літ.:* 1378, 1392. *А. Г. Калечыц.*

**ГЕЗГА́ЛЫ,** стаянка *нёманскай культуры* каля в. Гезгалы Дзятлаўскага р-на. За 1,7 км на ПнЗ ад вёскі, на выступе левабярэжнай тэрасы р. Моўчадзь, выш. над паверхняй вады 5 м. Выявіў у 1976 г. М. М. Чарняўскі. Памер 30×70 м. Культурны пласт да 0,3 м. Знойдзены крамянёвыя вырабы і фрагменты керамікі дубічайскага этапу, арнаментаваныя адбіткамі грэбеня, насечкамі і наколамі. Непадалёку ад стаянкі на тым жа рачным беразе ёсць крэйдавае агаленне з крамянёвымі канкрэцыямі. Мяркуючы па матэрыялах са стаянак ніжняга цячэння Моўчадзі і прылеглых берагоў Нёмана, крэмень з гэтага крэйдавага радовішча шырока выкарыстоўваўся тутэйшым першабытным чалавекам. *М. М. Чарняўскі.*




**Гелеры** аднабаковыя. Чэхія (каралеўства): 1. Вацлаў IV [1378—1419]; 2. Уладзіслаў II [1471—90].

**ГЕ́ЛЕР** (ням. Heller, Haller, лац. denarii Hallensy дэнарый хальскі), 1) разнавіднасць *дэнарыя* (маса 0,5 г), які з 1200 чаканіўся Імперскім манетным дваром г. Гале (Швабія). У 14—15 ст. адпавядаў 1/12, у пач. 16 ст.— 1/14 *гроша пражскага.* 2) Манета Сілезіі 14—1-й пал. 16 ст., якая тыпалагічна пераймала Г. (маса 0,25 г). Складала 1/12, потым 1/16 *гроша.* 3) Адна з назваў дэнарыя 14 ст., які чаканіўся ў Кракаве. 4) На тэр. Беларусі з 2-й пал. 15 ст. сярэбраная манета, разменны намінал у адносінах да гроша пражскага. Вядомы пад назвамі «гарэль», «галер», «шэлег галелы». У 17 ст. разменная манета («пенязь гарэль»), роўная 6 дэнарыям польскім або 2 шэлегам.

*Літ.:* 1293. *І. Ф. Масько.*

**ГЕНЕ́ЗІС** (грэч. genesis паходжанне, узнікненне, развіццё), прысутнасць трывалых (генетычных) сувязей паміж папярэдняй і наступнай з'явамі ў працэсе іх развіцця, наяўнасць паміж імі пераходных форм. Напр., прасочаны Г. пахавальнага абраду насельніцтва Сярэдняга і Верхняга Падняпроўя з пач. 1-га тысячагоддзя да н. э. да сярэдзіны 1-га тысячагоддзя н. э.: прыкметы пахавальнага абраду *кіеўскай культуры* (2—5 ст. н. э.; трупаспаленне на баку, кальцыніраваныя косці змяшчаліся ў грунтавую яму разам з рэшткамі вогнішча, камянямі і кавалкамі пабітага посуду) характэрны і для могільнікаў *мілаградскай*

*культуры* (7—3 ст. да н. э.). Пахавальных абрадаў адзначана ў насельніцтва мілаградскай і *лебядоўскай культуры* (12—9 ст. да н. э.). *С. Я. Расадзін.*

**ГЕНСЭЛЬ** (Hensel) Вітальд (н. 29.3.1917, Познань), польскі археолаг і гісторык-славіст. Скончыў Пазнанскі ун-т (1934). З 1951 праф. Пазнанскага, з 1954 Варшаўскага ун-таў. З 1955 дырэктар Ін-та гісторыі матэрыяльнай культуры Польскай АН (ПАН), з 1973 акадэмік ПАН. Даследуе помнікі жал. веку на тэр. Польшчы і інш. славянскіх краін, выкарыстоўвае бел. археал. і гіст. крыніцы.

*Тв.:* Archeologia o początkach miast słowiańskich. Wrocław etc., 1963; La naissance de la Pologne. Wrocław etc., 1966; Archeologia i prahistoria: Studia i szkice. Wrocław etc., 1971; Początki państwa polskiego i jego kultury. Wrocław etc., 1971; Polska starożytna. 3 wyd. Wrocław etc., 1988. *Л. Д. Побаль.*

**ГЕРАЛЬДЫКА** (позналац. heraldica ад heraldus вяшчальнік), г е р б а з н а ў с т в а, дапаможная гіст. дысцыпліна, якая на падставе вывучэння гербаў памагае вызначыць час складання, аўтарства або прыналежнасць адзначаных гербамі дакументаў і рэчаў; сістэма ведаў і правілаў складання і карыстання гербамі, якая рэгламентавала элементы герба, надавала кожнаму з іх пэўны сэнс і змест. Цесна звязана з археалогіяй, нумізматыкай (гл. *Нарысы*), *сфрагістыкай*, генеалогіяй і інш.

Як навука ўзнікла ў 1-й пал. 14 ст., тэорыя Г. распрацавана і сістэматызавана ў 16—18 ст. вучонымі-геральдыстамі. Навук. вывучэнне гербаў пачалося ў 2-й пал. 19 ст. У Расіі Г. паявілася ў 2-й пал. 17 ст. і адразу набыла афіцыйнае значэнне. Арыгінальныя тэарэтычныя працы па Г. выйшлі ў сярэдзіне 19 ст. Гербы шматлікіх бел. гарадоў апісалі ў 19 ст. А. Б. Лакіер, П. П. Вінклер. Польскія даследчыкі 19 ст. К. Нясецкі і Ф. Пікасінскі вывучалі гербы бел. шляхты 17—18 ст. У 1900 Дз. І. Даўгяла выдаў «Аршанскі гербоўнік», дзе змясціў каля 1500 шляхецкіх гербаў з Аршаншчыны. Беларускую Г. часоў ВКЛ даследаваў польскі храніст Б. Папроцкі, у наш час вывучае бел. даследчык А. К. Цітоў.

У археал. матэрыялах, выяўленых на тэр. Беларусі, геральдычныя знакі сустракаюцца на ганчарных клеймах, *пячатках*, пярсцёнках, кафлях. На керамічным посудзе з Заслаўя, гарадзішчаў на Менцы і ў в. Горы Горацкага р-на, паселішчаў і курганоў у наваколлі Мінска выявы ў выглядзе двух- і трохзубца, якія вызначаюцца як асабістыя знакі, гербы кіеўскіх князёў Святаслава Ігаравіча і Уладзіміра Святаславіча. Уладальніцкія знакі 10—12 ст. ёсць на посудзе з Ваўкавыска, Заслаўя. Пячатка са знакам полацкага кн. Ізяслава Уладзіміравіча знойдзена ў Ноўгарадзе. Выява княжацкіх знакаў 11—12 ст. сустракаецца на дзяржаннях нажоў, упрыгожаннях, буд. матэрыялах. У канцы 16—17 ст. шырокае распаўсюджанне атрымаў звычай наносіць відарысы гербаў на пячную кафлю. Адлюстроўваліся гербы гарадоў (Друя, Слуцк), магнатаў (Мірскі і Заслаўскі замкі), шляхты (Віцебск, Друя, Заслаўе, Іказнь, Магілёў, Мінск, Мсціслаў, Орша). Над шчытамі змяшчаліся шлемы і кароны, княжацкія шапкі, галаўныя ўборы святароў. Шчыт быў абкружаны намётам, які часта меў выгляд стылізаванага лісця раслін. Побач са шчытамі маглі быць змешчаны шчытатрымальнікі — геральдычныя звяры, рыцары, пажы, збраяносцы. Звычайна па краях кафлі, пад гербам ці вакол яго ставіліся лацінскія або слав. літары, абрэвіятуры імён, прозвішчаў, тытулаў і дзярж. пасады ўладальнікаў герба. Выява лаўровага лісця азначала заслугу ў барацьбе з ворагамі, атрыбуты пасад (епіскапскія посахі, зброя). Геральдычныя выявы гэтага часу ёсць на пячатках, знойдзеных у Полацку і Заслаўі. Сярод адлюстраваных на кафлях гербаў з Беларусі — «Пагоня», «Ляліва», «Багорыя», «Амадэй», «Ястрабец», радзівілаўскі арол з «Трубамі» і інш. Часта сустракаюцца састаўныя гербы, дзе на шчыце змешчаны ад 2 да 5 гербаў.

*Літ.*: 321, 422, 1104, 1274.

*Ю. А. Заяц, Г. В. Штыхаў.*



Да арт. **Геральдыка**. Кафля-«медальён» з выявай герба трокскага ваяводы Я. Глябовіча. Заслаўе. Канец 16 ст.

**ГЕРАНЁНСКІ ЗАМАК.** Існаваў у канцы 15—18 ст. каля в. Геранёны Іўеўскага р-на. Пабудаваны, верагодна, на мяжы 15—16 ст., калі Геранёнамі валодаў канцлер ВКЛ і віленскі ваявода Войцах Гаштольд. Замак размяшчаўся на штучнай выспе, насыпанай з зямлі, што была выкінута з рова, які абкружаў замчышча. Перад ровам быў земляны вал выш. 9—10 м, шыр. каля 15 м, даўж. па перыметры больш за 700 м. Вал у плане нагадваў выцягнуты прамавугольнік з закругленымі вугламі. Абарона Г. з. не была разлічана на прыродныя перашкоды і не мела штучнага абваднення. Толькі знешні абарончы роў на асобных участках мог напаўняцца вадой у час веснавога раставання снягоў або ўвосень, калі ішлі дажджы. Характар першапачатковых навальных канструкцый Г. з. не высветлены, аднак можна меркаваць, што яны ўяўлялі сабой звычыйныя драўляныя сцены. Сам жа замак меў выгляд квадрата (27×27 м), на кожным рагу якога стаялі мураваныя вежы. Археал. даследаванне (1972, М. А. Ткачоў) уцалелых рэшткаў сцен і вежаў сведчыць, што яны былі складзены ў традыцыйнай для Беларусі тэхніцы паласатай муроўкі з шырокім выкарыстаннем каменю і цэглы, якая ўжывалася ў асн. для абліцоўкі вежаў. Вапнавы раствор мае нязначны дамешак тоўчанай цэглы і вызначаецца трываласцю. Сцены замка таўшч. 1,4 м на асобных участках дасягаюць цяпер выш. каля 4 м. Першапачатковая іх вышыня



**Геранёнскі замак.** Рэканструкцыя М. А. Ткачова. Мастак Я. Кулік.

значна перавышала знешні абарончы вал, які прызначаўся, магчыма, у першую чаргу для прыкрыцця замка ад прамога абстрэлу. Завяршэнне замкавых сцен было, відаць, цаглянае. Падмуркі выш. 1 м зроблены з вял. камянёў (70×50 см), закладзеных на вапне. Прамежкі паміж імі старанна замураваны растворам з кавалкамі цэглы. Вежы Г. з. мелі цыліндрычную форму і дыям. 8 м. Сцены 2-метровай таўшчыні складзены з каменю (муроўка тусковая) і звонку абліцаваны цэглай (муроўка гатычная). Таўшч. вапнавага раствору 2—3,5 см. Цэгла буйнапамерная, баразнаватая, памеры 29,5×(13—14)×(6—8,5) см. Глыб. залягання падмурка вежаў і сцен каля 1 м. Падмуркі перавязаны, а лініі каменнай і цаглянай муроўкі супадаюць. Аднолькавыя тэхніка муроўкі і памеры цэглы — сведчанне адначасовасці ўзвядзення сцен і вежаў. Рэшткі паўн.-зах. вежы сведчаць, што ў ёй было скляпеністае перакрыцце, якім раздзяляліся 2 ніжнія паверхі. Захаваўся аконны праём ніжняга паверха выш. 1 м і шыр. 0,6 м з гатычнай аркай. Да паўд. сцяны замка прыбудаваны палац, узведзены ў канцы 16 ст. Вядома, што ў 1565 панскі палац у Г. з. быў яшчэ драўляны. Паводле інвентара замка за 1765, палац — 2-павярховы будынак на 12 акон, у якім на 1-м паверсе размяшчаліся розныя службы, на 2-м — парадныя пакоі. Дах вянчалі па вуглах бляшаныя зоркі, па цэнтры — флюгер у выглядзе бляшанага бусла. Аднак сцены замка ўжо былі значна пашкоджаны. Пры раскопках знойдзена плоская і карытападобная чарапіца, якой былі пакрыты дахі вежаў, палаца і дахі над баявым ходам сцен.

Г. з. узводзіўся у тыя часы, калі роля артылерыі ў ходзе баявых дзеянняў значна ўзрасла і стала вельмі эфектыўнай. У сувязі з гэтым асн. цяжар абароны сталі пераносіць на знешнія ўмацаванні — равы і валы. Валы ўзводзіліся высокія, каб яны надзейна закрывалі гал. частку замкавага будынка. Да таго ж яны значна аддаляліся. У Г. з., напр., валы аднесены на 80 м. Цэнтр абароны тут акцэнтаваны на знешнім вале, які і цяпер дасягае выш. 10 м. З унутранага боку вала зроблена мураваная сцяна таўшч. 1,25 м і выш. 4,5 м, яна выконвала ролю падпорнай сценкі і надзейна прадухіляла апаўзанне вала ўнутр замкавага двара. Акрамя таго, пад яе заслонай у час аблогі маглі перамяшчацца воіны гарнізона, пра што сведчыць брукаваная дарожка, якая ідзе каля самага нізу сцяны. Пасля адной з падсыпак вала будаўнікі падмацавалі сценку невял. контрфорсамі — «бычкамі», узведзенымі амаль праз кожныя 3—3,5 м. Падпорная сцяна і «бычкі» выкананы ў традыцыйнай тэхніцы паласатай муроўкі з выкарыстаннем вялізных (каля 1 м) абчасаных камянёў і баразнаватай цэглы (як і на замку), пакладзеных на вапне. Адрэзкі падпорнай сценкі зыходзіліся ў вуглах вала і пераходзілі ў 7-кантовыя вежы-рандэлі, якія былі важнымі агнявымі пунктамі. Таўшч. сценак рандэляў дасягае 1,75 м. Па ўцалелых фрагментах рандэляў можна меркаваць, што яны былі 2-павярховыя, з бэлечным перакрыццем. Іх ніжні паверх выш. каля 4,5 м поўнасцю знаходзіўся ў тоўшчы вала. Тут, напэўна, хавалі розныя ваенныя прыпасы і рыштунак. Другі паверх пачынаўся ад дзённай паверхні вала і нагадваў 7-кантовы мураваны бастыён з перыметрам сцен каля 25 м. Гэта дазваляла размясціць тут некалькі гармат або некалькі дзесяткаў салдат. Траплялі на другі паверх па прыступках мураванай лесвіцы, якая пачыналася каля нізу падпорнай сцяны, на стыку яе з рандэлем. Значную агнявую сілу можна было сканцэнтраваць і на земляным вале. На асобных участках, асабліва з У, дзе быў уезд у замак, шыр. вяршыні вала нават цяпер дасягае 6—7 м. На такой пляцоўцы можна было размясціць ці традыцыйныя драўляныя сцены вянковай або парканнай канструкцыі, ці характэрныя для 16—17 ст. земляныя брустверы. Уезд у Г. з. знаходзіўся з усх. боку, дзе абарончы роў у наш час дасягае глыб. 4 м, шыр. 15 м. Уязная замкавая брама размяшчалася ў ніжнім паверсе паўд.-зах. рандэля, сцены якога мелі таўшч. каля 2,2 м. Да брамы траплялі па перакінутым цераз роў лёгкім драўляным мосце. Частка моста перад ёй, магчыма, падымалася на ланцугах. Уезд у замак знаходзіўся пад абстрэлам з верхняй часткі брамы і з прылеглых да яе. Акрамя таго, справа ад брамы існаваў бастыёнападобны выступ, які фланкіраваў агнём мост і бліжэйшыя подступы да брамы. Такі элемент абароны быў адным з першых вядомых на Беларусі (датуецца пач. 16 ст.) і з'яўляўся правобразам тых бастыённаў і бастыённай сістэмы ўмацаванняў, якія атрымалі на Беларусі самае шырокае распаўсюджанне ў 2-й пал. 16—17 ст. Невыпадкова і месцаразмяшчэнне Геранёнскага мураванага касцёла, узведзенага ў 1519. Абнесены мураванай сцяной, ён прымыкаў непасрэдна да абарончага рова перад брамай і з'яўляўся дадатковай перашкодай на шляху ў замак. З ваеннага пункта гледжання Г. з. у пач. 16 ст. быў магутным збудаваннем. Ён увабраў у сябе амаль усе вядомыя тады элементы фартыфікацыі, якія дазвалялі на працягу доўгага часу процістаяць тагачаснай тактыцы і тэхніцы аблогі. Да 1542 Г. з. валодалі Гаштольды, потым — вял. князі ВКЛ і каралі Польшчы Жыгімонт І Стары і Жыгімонт ІІ Аўгуст, да 1588— розныя асобы, пазней Сапегі, з 1643— падскарбій ВКЛ Мікалай Кішка. У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 замак разбураны маскоўскім войскам, але, верагодна, ён быў хутка адноўлены. З 1670 замак і в. Геранёны на дзярж. утрыманні. У 1708 у Г. з. размяшчаўся польскі кароль Станіслаў Ляшчынскі з атрадам шведскага войска. Пасля Паўн. вайны 1700—21 замак прыйшоў у заняпад. У пач.19 ст. ў ім ужо не жылі, у сярэдзіне стагоддзя значную частку руін разабралі для ўзвядзення ў в. Ліпнішкі розных гасп. пабудоў. Н. Орда, які рабіў у тыя гады замалёўкі розных старадаўніх будынкаў, застаў руіны Г. з. выш. толькі да 1-га паверха. Да нашых дзён не захавалася і гэтага.

*Літ.:* 1200. *М. А. Ткачоў.*

**ГЕРМА́НЦЫ,** вялікая група стараж. плямён індаеўрап. моўнай групы, якія ў 1 ст. да н. э. займалі тэр. паміж Паўн. і Балтыйскім морамі, Рэйнам, Дунаем і Віслай, Паўд. Скандынавію. Пытанне аб прарадзіме Г. застаецца спрэчным. Існуе погляд, што культурнае кола Г. склалася ў канцы *неаліту* ў выніку змяшэння розных этнічных груп: плямён Паўн. Германіі, Ютландыі, Паўд. Скандынавіі (*мегалітычная культура, лейкападобных кубкаў культура*) і прадстаўнікоў *шнуравой керамікі культуры,* якія прасоўваліся з Пд да Балтыйскага мора. Лічылася, што Г. належыць культура палёў пахавальных урнаў. Цвёрда атаясамліваюцца з Г. толькі плямёны ясторфскай культуры (Пн Германіі і Польшчы).

У пісьмовых крыніцах звесткі пра Г. упершыню сустракаюцца ў Пітэаса з Масіліі (4 ст. да н. э.), але толькі Ю. Цэзар убачыў у Г. асобную этнічную групу, якая адрозніваецца ад кельтаў. Мяркуецца, што назва «Г». «Jermani» кельтскага паходжання. Тацыт (канец 1 ст.) пісаў, што спачатку Г. называлася невял. племя і толькі «нядаўна» сталі абазначаць кангламерат народаў. Падзяляюць на паўночных (хаўкі, англы, варны, фрызы, гаўты, свіёны), заходніх (свевы, маркаманы, квады, лангабарды, сямноны), усходніх (вандалы, бургунды, готы, гепіды). Асн. занятак — земляробства і жывёлагадоўля, займаліся паляваннем, рознымі хатнімі рамёствамі. Г. запазычылі многа у кельтаў (*латэнская культура),* потым у рымлян. У 3 ст. ведалі плуг, ганчарны круг, насыпалі курганы над пахаваннямі. У першыя стагоддзі н. э. радавы лад быў у стадыі разлажэння, пра што сведчаць «княжацкія пахаванні» (прасочваюцца ад 1 да 2—3 ст.), у якіх знойдзены залатыя рымскія фібулы, германскія сярэбраныя і бронзавыя вырабы. Шматбаковае ўзаемадзеянне германскіх, балцкіх і слав. (асабліва заходніх) плямён з гэтых часоў зрабіла адбітак на ўсю гісторыю Паўн.-Усх. і Усх. Еўропы. У канцы 2— пач. 3 ст. готы пачалі прасоўванне на Пд у двух напрамках — да мяжы Рымскай імперыі і ў раён Паўн. Прычарнамор'я. Гэта было пачаткам Вял. перасялення народаў, адным з вынікаў якога стала ўтварэнне на зах. тэр. Рымскай імперыі раннефеад. варварскіх каралеўстваў.

На тэр. Беларусі выяўлены магільнікі *вельбарскай культуры,* пакінутыя готамі і роднаснымі ім гепідамі. Лінгвістамі выяўлена генетычная сувязь і ўзаемапранікненне германскіх і слав. моў. Вядома значная роля вікінгаў (варагаў) у гісторыі Кіеўскай дзяржавы. У бел. граматах 13—14 ст. трапляюцца германізмы, якія адлюстроўвалі гандл. зносіны паўн. гарадоў Беларусі з нямецкім насельніцтвам Рыгі і Гоцкага берага.

*Літ.:* 467.

**ГЕ́РЦЫКЕ** (Gercike, Герцык, Герсіке, Герсік, Гарцыке), старажытны горад Полацкай зямлі. На правым беразе Зах. Дзвіны, за 180 км ад Полацка, за 2 км ад сучаснага населенага пункта Ерсіка

Прэйльскага р-на Латвіі. Даследаваў у 1939 Ф. Балодзіс, ускрыта 600 м². Гарадзішча авальнай формы, памер 70×100 м, выш. 14 м. На Пн ад яго пасад (750×200 м). Зафіксавана 10 буд. гарызонтаў, найб. ранні з іх адносіцца да 10 ст. У 11 ст. пабудаваны земляныя ўмацаванні. Горад цесна забудаваны, пабудовы арыентаваны перпендыкулярна Зах. Дзвіне. На гарадзішчы выяўлены рэшткі драўляных пабудоў з печамі, знойдзены рэчы, тыповыя для прыбалтыйскіх і слав. народаў і характэрныя для гарадоў Полацкай зямлі.

Пасад заселены ў 11—12 ст., нанава адроджаны ў 14 ст. Непадалёку ад гарадзішча і пасада знаходзіцца могільнік 10—12 ст. Пахавальны абрад — трупапалажэнне. Мужчынскія касцякі арыентаваны галавой на У. Жаночыя ўпрыгожанні ў большасці латгальскія; знойдзены крыжыкі і 2 крутарогія лунніцы, характэрныя для славян.

Паселішча Г. існавала з 10 ст. У 2-й пал. 11—1-й пал. 13 ст. горад Г. належаў Полацкаму княству як фарпост і цэнтр феад. ўладання ў ніжнім Падзвінні. Насельніцтва складалася пераважна з латгалаў і славян. Упершыню ўпамінаецца ў «Хроніцы Лівоніі» Генрыха Латвійскага пад 1203 як багатая княжацкая рэзідэнцыя з некалькімі правасл. цэрквамі і як цэнтр падпарадкаванага Полацку ўдзела на чале з кн. Усеваладам. У 1209, 1214 і 1215 на горад нападалі крыжакі, разрабавалі і спалілі яго. Пасля смерці кн. Усевалада ў 1230 Г. перайшоў пад уладу рымскага епіскапа.

*Літ.*: 222, 364, 1346, 1406.

*Г. М. Семянчук.*

**ГІДРАНІ́МІЯ** (грэч. hydōr вада + + ōnyma імя), сукупнасць уласных назваў мораў, рэк, азёр, ручаёў, сажалак, балот і інш. гідронімаў пэўнай тэрыторыі. Адзін з раздзелаў *тапаніміі.* Гідронімы падзяляюцца на акіянонімы — назвы акіянаў і іх частак (Атлантычны акіян, Балтыйскае мора, Рыжскі заліў), патамонімы — назвы рэчак (Нёман, Прыпяць), гелонімы — назвы балот (Выганаўскае балота), лімнонімы — назвы азёр, ставоў, віроў (Нарач, Судабле). Назвы невял. водных аб'ектаў абмежаванай тэрыторыі, вядомыя толькі мясц. жыхарам, адносяцца да мікратапаніміі.

Г. з'яўляецца вынікам нар. творчасці і служыць багатай крыніцай інфармацыі пра этнасы, пасля якіх засталіся гідронімы. У Г. захоўваюцца пласты розных часоў і розных моў, архаічныя і дыялектныя рысы. Вывучэнне Г. дае магчымасць выявіць узаемаадносіны моў і этнічных супольнасцей у стараж. часы, межы рассялення і шляхі перасялення народаў; дапамагае ўзнавіць этнічную гісторыю краю. Вывучэнне Г. пэўнай тэрыторыі, устанаўленне лінгвістычнага характару гідронімаў, іх храналагічная стратыфікацыя ў шэрагу выпадкаў дапамагаюць устанавіць этнічную прыналежнасць археал. культур, прасачыць стараж. міграцыі і на гэтай аснове рэканструяваць этнакультурную гісторыю, паслядоўнасць змены насельніцтва і стараж. межы кожнага этнасу.

Эпізадычны збор і даследаванні гідронімаў Беларусі пачаліся ў 1-й пал. 19 ст. У сярэдзіне 19 ст. А. Кіркор заклікаў даследаваць назвы старажытнейшых месцаў, рэк, азёр і інш. Гідронімы Беларусі вывучалі А. А. Качубінскі, А. А. Пагодзін, І. П. Філевіч, Я. Ф. Карскі, М. Фасмер. Пытанні аб шырокім рассяленні балтаў у старажытнасці на сучаснай тэр. Беларусі да басейнаў Бярэзіны на У і Прыпяці на Пд першым паставіў Качубінскі. На пач. 20 ст. значную ўвагу гідронімам на Беларусі аддаў у сваіх працах літ. мовазнавец К. Буга, які меркаваў, што паўд. мяжа рассялення стараж. балтаў (па яго тэрміналогіі айстаў) праходзіла па Прыпяці, на Пд ад якой жылі славяне. Нямецкі мовазнавец Х. Краэ прапанаваў гіпотэзу, паводле якой існавалі старажытнаіндаеўрап. групы насельніцтва, што мелі слабы, але пастаянны кантакт паміж сабой. З часам у іх развіліся мовы: прагерманская, праілірыйская, прабалцкая і праславянская. Гэта насельніцтва існавала ў 2-м тысячагоддзі да н. э. і займала тэр. ад Брытанскіх астравоў да ПдУ Прыбалтыкі. Асобныя старажытнаіндаеўрап. гідронімы Краэ знаходзіў і на тэр. Беларусі; асаблівая іх канцэнтрацыя назіраецца ў ніжнім цячэнні р. Нёман. У. М. Тапароў і А. М. Трубачоў падлічылі, што ў Верхнім Падняпроўі захавалася каля 700—800 балцкіх гідронімаў, якія раўнамерна распаўсюджаны па гэтай тэрыторыі. На гэтай і іншых падставах аўтары робяць выснову, што балцкае насельніцтва не адступіла пад націскам слав. асіміляцыі на ПнЗ, а паступова асімілявалася. Пазней яны перагледзелі паўд. мяжу балцкай Г., выявілі балцкія гідронімы і на Пд ад Прыпяці. На Пн балцкая Г. Верхняга Падняпроўя пераходзіць у бас. Зах. Дзвіны. У Падняпроўі найб. ўдзельная вага балцкай Г. ў басейне Бярэзіны. Як лічаць даследчыкі, рассяленне ўсх. славян на Пн ішло па рэках Дняпроўскага басейна, найперш па Дняпры. Гіпотэзы мовазнаўцаў пра познюю славянізацыю Верхняга Падняпроўя і Падзвіння выкарыстаны ў працах маскоўскага археолага В. В. Сядова, які абгрунтаваў палажэнне пра вызначальную ролю балцкага субстрату ў паходжанні бел. народнасці. Балцкі гідранімічны пласт мог скласціся ў раннім жал. веку (1-е тысячагоддзе да н. э.— пачатак н. э.). Шэраг даследчыкаў вылучаюць у Падзвінні, уздоўж мяжы з Латвіяй і Літвой асобныя фіна-угорскія гідронімы, пакінутыя, як мяркуецца, неалітычнымі плямёнамі тыповай грабеньчата-ямкавай керамікі культуры. Працы па Г. Беларусі, у першую чаргу Падзвіння, належаць А. М. Катонавай, якая выпрацавала гіпотэзу, што тапонім «Палессе» мае не слав. паходжанне, як лічылася да гэтага, а паходзіць ад балцкага кораня pal, які азначае балота. У Падзвінні Катонава вылучыла 2 разначасовыя гідранімічныя пласты: славянскі (найб. позні) і балцкі, а таксама асобныя фіна-угорскія назвы. Разам з іншымі відамі тапонімаў гідронімы разглядаліся ў працах бел. географа В. А. Жучкевіча. Даследаванні балцкай гідраніміі па ўсх.-слав. тэр. праводзіць Р. А. Агеева і інш. мовазнаўцы. Этымалогіяй гідронімаў тэр. Літвы, многія з якіх аднатыпныя з гідронімамі Беларусі, займаецца А. Ванагас.

*Літ.*: 11, 509, 1060, 1208, 1416, 1504.

*Э. М. Зайкоўскі.*



Металічныя **гіркі-разнавагі** 10—11 ст. Полацк.

**ГІ́РКІ-РАЗНАВА́ГІ,** прылады метралагічнага кантролю для ўзважвання каштоўных металаў і вызначэння колькасці грашовавагавых адзінак у манетах, сярэбраных злітках, упрыгожаннях. Вядомы з 2-й пал. 10 ст. На Беларусі выраблялі з медзі, бронзы, бранзаванага жалеза, свінцу, шкла і каменю рознай формы (шарападобныя з пляцоўкамі з двух бакоў, цыліндрычныя, пляскатыя, у выглядзе кубікаў і інш.). Для вызначэння колькасці адзінак на кожную бірку наносілі ўмоўныя знакі: кропкі (вочкі), крыжы (з адпаведнай колькасцю промняў), лініі, літары, лічбы. Змена манет аднаго тыпу другім адбівалася на афармленні Г.-р. Часам у якасці дапаможных гірак выкарыстоўвалі абломкі ўпрыгожанняў, манет, пацеркі, каменьчыкі і інш. Знойдзены камплекты і асобныя гіркі і вагі ў курганных могільніках (каля в. Даўборы, Дроздава, ва ўрочышчы Цёмныя Крамкі Віцебскай вобл.), на раскопках населеных пунктаў (найб. на Падзвінні).

*Літ.*: 110, 1513. *Ш. І. Бекцінееў.*

**«ГІСТАРЫ́ЧНА-АРХЕАЛАГІ́ЧНЫ ЗБО́РНІК»,** даклады і рэфераты па археалогіі 1926—27, выдадзеныя Ін-там бел. культуры ў 1927 у Мінску на бел. мове. Змяшчае працы па гісторыі і археалогіі, у т. л. пра неалітычныя стаянкі ў Смаленскай

губ. (А. М. Ляўданскі), каля балота Печанеж у Касцюковіцкім р-не (К. М. Палікарповіч), раскопкі ў 1925 у ваколіцах Мінска, вёсак Пятроўшчына і Рылаўшчына (І. А. Сербаў), пра пражскія грошы і манетныя скарбы Бел. дзярж. музея (П. Харламповіч), палеалітычную стаянку Бердыж, новыя раскопкі каля Гомеля і дзейнасць гіст.-археал. камісіі Ін-та бел. культуры ў 1925—26 (Дз. І. Даўгяла), пра раскопкі Банцараўскага гарадзішча ў 1926 (С. А. Дубінскі), новыя архіўныя матэрыялы Полацкага Сафійскага сабора (М. М. Шчакаціхін), Полацкую Спасаўскую царкву (І. М. Хозераў). Змешчана бібліяграфія (77 работ).

*Г. В. Штыхаў.*

**ГІСТАРЫЧНАЯ АРХЕАЛОГІЯ,** галіна археалогіі, якая вывучае археал. помнікі эпохі класавага грамадства (цывілізацыі) — старaж. гарады, замкі, некропалі, археал.-архіт. комплексы і інш., звесткі пра якія шырока прадстаўлены ў пісьмовых крыніцах. Сумесна з археал. матэрыяламі выкарыстоўвае *гістарычныя крыніцы,* што дае магчымасць пераправеркі і атрымання больш дакладных высноў. Г. а. прымяняецца ў адносінах да старaж. цывілізацый Блізкага Усходу і Егіпта з 3—2-га тысячагоддзяў да н. э., сярэдневяковых помнікаў Беларусі, пачынаючы ад эпохі Кіеўскай Русі (9—10 ст.), асабліва пры даследаванні помнікаў дамангольскага і познафеад. перыядаў (14—18 ст.).

*У. Ф. Ісаенка.*

**ГІСТАРЫЧНАЯ ПЕРЫЯДЫЗАЦЫЯ,** падзел адзінага гіст. працэсу на эпохі (вякі) і перыяды ў адпаведнасці з вылучанымі ступенямі сацыяльна-эканам. развіцця грамадства, якія паслядоўна праходзіў пэўны этнас (племя, народнасць, нацыя) або насельніцтва рэгіёна, краіны, кантынента.

Паводле матэрыялістычнага погляду на гісторыю, пераход ад больш нізкай да больш высокай *фармацыі грамадска-эканамічнай* мае наступную паслядоўнасць: першабытнаабшчынны лад — рабаўладальніцтва — феадалізм — капіталізм — камунізм. Кожная фармацыя характарызуецца сукупнасцю фактараў, ад якіх залежалі формы жыцця этнасу, абшчыны, роду, сям'і, дзяржавы і інш. Час існавання фармацыі вылучаецца ў асобную гіст. эпоху, а ў адпаведнасці са ступенямі яе развіцця вызначаюцца перыяды ўнутры эпохі. Першабытнаабшчынны лад («першабытны камунізм») часам лічаць «дагісторыяй» або «перадгісторыяй» чалавецтва. Пасля яго наступіла т. зв. цывілізацыя. Гісторыя першабытнаабшчыннага ладу падзяляецца на 2 эпохі — першабытнага статка, або праабшчыны («дзікунства»), і радавога ладу («першабытнай камуны»). У апошняй разглядаюць перыяды мацярынска-радавога ладу (ранняй і позняй радавой абшчыны) і патрыярхату («варварства», «ваеннай дэмакратыі», познапершабытнай сельскай, суседскай, ці тэрытарыяльнай, абшчыны або эпохі класаўтварэння). Першабытнаабшчынны лад адпавядае *каменнаму веку, бронзаваму веку* і ранняму *жалезнаму веку.* Мацярынска-радавы лад у асн. прыпадае на *неаліт,* а патрыярхат развіўся ў бронзавы век. Перыяд «ваеннай дэмакратыі», якім завяршаецца патрыярхат, супадае з раннім жал. векам. Паміж Г. п. і *археалагічнай перыядызацыяй* можа не быць поўнай адпаведнасці. Так, у верхнім (познім) *палеаліце* ўжо існаваў радавы лад, а патрыярхат у некаторых этнасаў складваўся ў познім неаліце. Патрыярхальныя адносіны характэрны ў асн. для бронзавага і ранняга жал. вякоў. Некаторыя плямёны наогул не ведалі мацярынска-радавога ладу, у іншых жа матрыярхат праіснаваў да часоў дзяржаўнасці. Пры развіцці цывілізацыі насельніцтва шэрагу рэгіёнаў (Усх. Еўропа і інш.) пазбегла эпохі рабаўладальніцтва, у інш. месцах назіраліся розныя яго тыпы (антычны, азіяцкі). Напр., «азіяцкі тып вытворчасці» ў Месапатаміі не падобны на класічнае рабаўладальніцтва, а Старaж. Русь наогул мінула яго. Развіццё грамадства адбывалася па адзінай лініі толькі ў самых агульных рысах. Сацыяльна-эканам. развіццё кожнай этнічнай еднасці, працягласць гіст. эпохі або перыяду, характар пераходу ад адной фармацыі да іншай паступова набывалі свае адметныя, непаўторныя рысы. Таму ўклад кожнага народа ва ўсеагульную гісторыю мае выключную каштоўнасць, з'яўляецца набыткам усяго чалавецтва.

*Літ.:* 880, 935, 1380. *У. Ф. Ісаенка.*

**ГІСТАРЫЧНЫ МУЗЕЙ** у Маскве. Засн. ў 1872, адкрыты ў 1883. У фондах музея каля 1 млн. адзінак археал. матэрыялаў. Сярод іх знаходкі з раскопак на тэр. Беларусі, якія перадалі ў музей даследчыкі А. Кіркор (1857, рэшткі вупражы, рыштунку конніка з в. Гарадзілава Ашмянскага пав.), браты Я. і К. Тышкевічы (1867, каменныя малаткі, жал. сякеры, жаночыя ўпрыгожанні з Лагойшчыны і Віцебшчыны), М. Ф. Кусцінскі (1872, упрыгожанні і прадметы побыту з в. Вядзец, Загор'е Сенненскага пав.), У. З. Завітневіч (1892, з Бабруйскага пав.), Е. Р. Раманаў (1892—94, наканечнікі коп'яў, жал. зброя з Падзвіння), М. М. Турбін (1893, сярэдневяковыя прылады працы з мяст. Заслаўе), В. А. Шукевіч (1894—95, з раскопак жальнікаў у Лідскім пав.), М. П. Авенарыус (1891, калекцыя жал. сякер з вёсак Барысаўскага пав., Драгічынскага гарадзішча), Ф. В. Пакроўскі (1895), А. А. Гурко, У. І. Сізоў (1899, скарб сярэбраных рэчаў 11—12 ст. з Полацка, кальчуга эпохі Кіеўскай Русі з Оршы) і інш. У 1960-я г. Ю. У. Кухарэнка і І. П. Русанава перадалі музею кераміку і прадметы побыту з раскопак помнікаў *Кісцяні, Новы Быхаў, Радасць, Чаплін.*

*Літ.:* 253, 512, 846.

*Г. А. Каханоўскі.*

**ГІСТАРЫЧНЫЯ КРЫНІЦЫ,** канкрэтныя носьбіты дакладнай гіст. інфармацыі, якія былі вылучаны і даследаваны на аснове навук. метадалогіі з выкарыстаннем спец. гістарыяграфічнай методыкі, прайшлі праверку на дакладнасць, атрымалі атрыбутыўную класіфікацыю (вызначэнне месца, часу, культурнай, этнічнай або персанальнай прыналежнасці).

Пры аналізе Г. к. выяўляецца іх сацыяльная накіраванасць, адсутнасць супярэчнасцей, пазнейшыя напластаванні. Дакладнасць апісання гіст. фактаў патрабуе выкарыстання *параўнальна-гістарычнага метаду,* шырокага і ўсебаковага супастаўлення розных Г. к.— матэрыяльных (археалагічныя, архітэктурныя, нумізматычныя), пісьмовых (летапісы, дакументы, мемуары), фальклорных (эпасы, паданні) і інш. Для пашырэння кола Г. к. выкарыстоўваюцца дапаможныя гіст. дысцыпліны (палеаграфія, сфрагістыка, геральдыка, эпіграфіка, нумізматыка, дыпламатыка, метралогія і інш.). Мэтай 2-га этапу археалагічных даследаванняў з'яўляецца пераўтварэнне *археалагічных крыніц* у Г. к. і рэканструкцыя на аснове апошніх гіст. працэсу. Прыведзеныя ў сістэму Г. к. служаць падставай для гіст. высноў (гл. *Сістэмны аналіз).* Асобныя Г. к., наадварот, не маюць доказальнасці і выкарыстоўваюцца вельмі асцярожна. У працэсе даследавання Г. к. шырока выкарыстоўваюцца карэляцыя, метад пабудовы граф, *фактарны аналіз, мадэліраванне* і інш. метады.

*Літ.:* 368, 934. *У. Ф. Ісаенка.*

**ГІСТОРЫКА-КРАЯЗНАЎЧЫ МУЗЕЙ** Магілёўскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя А. А. Куляшова. Адкрыты ў снежні 1978. Мае каля 112 тыс. археал. прадметаў (1991): прылады працы, кераміка, упрыгожанні каменнага, бронзавага і ранняга жал. вякоў, эпохі Кіеўскай Русі. У музеі захоўваюцца калекцыі з мезалітычных і неалітычных помнікаў *Бароўка, Баркалабава, Дальняе Ляда, Грэнск, Горкі* (Чэрыкаўскі р-н), *Жуpавель, Каромка, Крынічная, Хвойна* і інш. Тэматычныя карты ілюструюць размяшчэнне археал. помнікаў на тэр. Магілёўскай вобл. Частка матэрыялаў музея выкарыстоўваецца ў навучальных мэтах.

**ГЛАЗУРА,** тое, што *паліва.*

**ГЛІВІН,** група археал. помнікаў каля в. Глівін Барысаўскага р-на.

Стаянка мезаліту. За 100 м на У ад вёскі, на першай надпоймавай тэрасе правага берага р. Бярэзіна, ва ўрочышчы Смалярня, на пясчаным ўзгорку выш. 3,5 м над вадой. Пл. каля 2000 м², часткова разбурана ветравой эрозіяй, разворваннем і другасным засяленнем у бронзавым веку. Адкрыў у 1981 і даследаваў 653 м² у 1986 і 1988 У. П. Ксяндзоў.

Знойдзена каля 3 тыс. прылад працы (разцы, канцавыя і авальныя скрабкі, сярэдзінныя праколкі, скоблі, укладышы, вастрыі, нуклеусы) і адходаў іх вытворчасці з крэйдавага крэменю, дробназярністага кварцыту. На глыб.

0,75 м пад мезалітычным культурным пластом выяўлены скарб з 21 крамянёвай пласціны (відаць, загатоўкі для вырабу прылад працы).

Датуецца 6—5-м тысячагоддзямі да н. э., адносіцца да днепра-дзяснінскай культуры.

Селішча. За 200 м на У ад вёскі, каля дарогі ў в. Навасёлкі. Памер 250×120 м. Даследаваў 32 м² у 1982 Г. В. Штыхаў.

Знойдзена ляпная слабапрафіляваная кераміка з расчосамі (2—5 ст.), кавалак глянцаванай міскі зарубінецкай культуры, ляпны (8—9 ст.) і ганчарны (10—13 ст.) посуд.

Курганны могільнік-1 крывічоў. За 500 м на У ад вёскі, у зах. частцы селішча. 55 насыпаў выш. 0,5—2,5 м, дыям. 4—10 м. У 1982 даследаваў 18 курганоў Штыхаў. Пахавальны абрад — трупаспаленне ў насыпе, па 1,2 і 3 пахаванні ў кургане. Знойдзены слав. гліняны ляпны посуд з плечукамі. Датуецца 9 ст.

Курганны могільнік-2. За 1 км на У ад вёскі, каля дарогі ў в. Навасёлкі. 4 курганы выш. 1,5 м, дыям. 8—9 м. У 1982 даследаваў 2 насыпы Штыхаў. Пахаванняў і рэчаў не выяўлена.

*Літ.*: 625, 864, 1351. *У. П. Ксяндзоў, Г. В. Штыхаў.*

**ГЛІНІЦА,** курганны могільнік дрыгавічоў каля в. Гленіца Мазырскага р-на. За 1 км на ПнЗ ад вёскі. Было 50 курганоў. 16 насыпаў у 1889 даследаваў У. З. Завітневіч. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце галавой на З; захаваліся рэшткі дамавін. Знойдзены бронзавыя скроневыя кольцы, зярнёныя металічныя пацеркі, крэсіва, гаршчок. Датуецца 11 ст.

*Літ.*: 379.

**ГЛІНІШЧА,** курганны могільнік крывічоў каля в. Глінішча Полацкага р-на. На беразе р. Бяльчанка. 60 паўсферычных курганоў выш. 0,9—1,5 м, дыям. 6—10 м. У 1965, 1967 Г. В. Штыхаў даследаваў 20 курганоў. Пахавальны абрад — трупаспаленне пад насыпам (рэшткі крэмацыі складзены ў грудок), пахаванні адзіночныя, зрэдку парныя. У адным кургане пахавальны абрад — трупапалажэнне галавой на З.

Знойдзены ляпныя гаршкі, характэрныя для доўгіх курганоў Полаччыны і Смаленшчыны, пасудзіны, зробленыя на ганчарным крузе, шкляныя пацеркі, бронзавыя пярсцёнкі, плоскае скроневае кольца з серпападобнымі канцамі, нажы, серп, ланцужок, кавалкі аднабаковага грэбеня, падкованападобная спражка, наканечнік стралы і інш.

Датуецца канцом 9— пач. 11 ст.

*Літ.*: 1360.

**ГЛОГЕР** (Gloger) Зыгмунт (3.11. 1845, Каменка Падляская Аўгустоўскага пав. Сувалкаўскай губ., Польшча — 15.8.1910), польскі археолаг, этнограф, гісторык. Скончыў Варшаўскі ун-т (1867). Арганізатар і 1-ы старшыня краязнаўчага т-ва ў Варшаве. Даследаваў археал. помнікі каменнага і бронзавага вякоў на Беларусі (найб. на Гродзеншчыне і Брэстчыне), у Літве і Польшчы. Разам са сваёй жонкай А. А. Ельскай-Глогер сабраў вял. музейную калекцыю археал. і этнагр. матэрыялаў, у сваёй бібліятэцы захоўваў матэрыялы са збораў М. Федароўскага, А. Кіркора, Я. і К. Тышкевічаў, А. Ельскага і інш. У створаний ім «Старапольскай энцыклапедыі» (т. 1—4, 1900—03, 4 выд. 1978) змясціў матэрыялы пра бел. драўляную архітэктуру, «Смаргонскую мядзведжую акадэмію», бел. стравы, хатнія прылады працы, вайсковую атрыбутыку, старажытныя ўпрыгожанні.

*Тв.*: Notatki archeologiczne Michała Federowskiego z okolic Słonima. Kurhany pod Wiszowem. Warszawa, 1882; Dolinami rzek, opisy podróży wzdłuż Niemna, Wisły, Bugu i Biebrzy. Warszawa, 1903.

*Літ.*: 1425, 1489. *Г. А. Каханоўскі.*

**ГЛУСКІ ЗАМАК.** Існаваў у 16—18 ст. у Глуску Дубровіцкім. Займаў узвышаную частку правага берага р. Пціч на месцы гарадзішча эпохі ранняга жал. веку і Кіеўскай Русі. Як велікакняжацкі «двор» Глуск вядомы з 14 ст. У 15 ст. ён належаў кн. Гальшанскім. У 1501 глускія «добра» і «двор» перайшлі кн. Рыгору Іванавічу Юрэвічу, потым кн. Дубровіцкім, пасля зноў Гальшанскім, якія ў 1551 падаравалі глускія ўладанні каралю Жыгімонту II Аўгусту. Пазней Глускі «замочек... с местом и волостью...» пераходзіў па чарзе то да Гальшанскіх, то да Чартарыйскіх, якія ўрэшце парадніліся. Як сведчаць гіст. крыніцы, у 16 ст. Г. з. меў земляны абарончы вал з драўлянымі сценамі-гароднямі і бланкаваннем, 2 драўляныя вежы, уязную вежу-браму з пад'ёмным мостам-«узводам» і малой брамкай-«форткай», якая вяла да Пціча. У цэйхгаузе замка знаходзіліся «стрельбы замковые и пушки и иншые речи ку замку належачие». Паводле граматы 1571, там былі жал. гармата, гакаўніцы, ручніцы, вял. коп'і-рагаціны, даспехі — «зброи бляховые», шлемы-капалыны, порах, сера, салетра і інш. Да 1581 замкам і ўсім ваенным рыштункам валодалі князі Заслаўскія і Чартарыйскія. Потым Заслаўскія сваю «половицу замку Глуского и места Глуского и половину усее волости Глуское» прадалі Чартарыйскім за 50 тыс. злотых. 4.6. 1626 кн. М. Ю. Чартарыйскі прадаў частку гэтых уладанняў маршалку слонімскаму К. А. Палубінскаму. У канцы 17—18 ст. Г. з. належаў Радзівілам. На мяжы 16—17 ст. на месцы старога драўлянага ўзведзены новы 5-бастыённы замак, апаразаны глыбокім і шырокім ровам, які жывіўся водамі Пціча. Насыпаныя з гліны і культурнага пласта валы-курціны і бастыёны ўзвышаліся на 5—7 м над замкавым дваром. Унутры земляных валоў ішоў скляпеністы каменна-цагляны падземны ход. Па ім з бастыёна на бастыён пераходзілі ў час абстрэлу і аблогі стралкі. З замка вёў да Пціча 2-і падземны ход, які вырашаў праблему водазабеспячэння ў перыяд аблогі. Замкавая брама размяшчалася бліжэй да наружнага бастыёна, адкуль фланкіраваліся подступы да яе. Падвойныя створкі варот брамы былі акаваны жал. палосамі. Зверху на ланцугах калаўротам спускалася засцерагальная дубовая герса, акаваная жалезам. Замкавая брама мела выгляд 3-яруснай мураванай вежы. Ніз займала праезная частка, тут жа былі 2 скляпы з дзвярамі ў выглядзе драўляных кратаў. Справа да брамы прымыкаў корпус гарнізоннай казармы, злева знаходзілася «кардыгарда». У сценах кардыгарды размяшчаліся байніцы для кругавога абстрэлу. На 2-м ярусе вежы было 4, на 3-м — 3 акны-байніцы. Вакол ішла баявая галерэя-памост. Завяршалася брама купалам з «баняй» і бляшаным флюгерам-харугвачкай. На замкавым двары размяшчаліся розныя пабудовы, у т. л. цэйхгауз «пруская муру» (фахверкавай канструкцыі), студня, кухня, стайня і сажалкі, дзе гадавалася рыба. У 17 ст. тут пабудаваны касцёл. У дакументах канца 17 ст. ўпамінаецца яшчэ адна замкавая брама — «Водная». Яна мела 2 паверхі і, відаць, знаходзілася ў адной са звернутых у бок Пціча курцін. Трапіць у замак можна было па доўгім мосце з некалькімі пад'ёмнымі секцыямі-«ўзводамі». Доступ на мост запірала бервяно-«кабыліна», была і спец. будка-«вартоўня». На сярэдзіне моста знаходзілася прамежкавая брамка з 2 уваходнымі «форткамі».

У 16—18 ст. Г. з. лічыўся магутнай цытадэллю. У мірны і асабліва ў ваенны час тут знаходзіўся спец. гарнізон, які складаўся ў асноўным з мясц. жыхароў. Паводле інвентара 1692, у замку быў пастаянны гарнізон з 21 «жаўнера». Згадваюцца таксама «генерал» Аградзінскі, падхарунжы Скіндзер, барабаншчык, 3 пушкары — «Каза-пушкар, Стафан-пушкар, Абрам Навіцкі-пушкар». Сярод рамеснікаў замка людзі розных прафесій: «кавалі Сямён, Верамей, Іван, муляр Апанас Сяструх, Раман-руднік, маляр Якуб, рымар Даніла, Ян Тарасевіч-злотнік, катляры Навум, Васька і два Яны, Северын Тарасевіч-злотнік, слесар Піліп, зегармістр Грышка, сталяр Лявон, шабельнік Якуб». Яны цалкам забяспечвалі надзённыя ваенна-тэхнічныя патрэбы замка. У 1708 Г. з. ахоўвалі выбранцы — наёмныя салдаты, якіх набіралі з глускіх мяшчан, а таксама з вольных людзей, сялян Кольчыцкага войтаўства, дробнай шляхты. Днём выбранцы працавалі па дамах.

заўляліся ў замку ў выпадку ваеннай небяспекі. Несці варту ў Г. з. рэгулярна высылалі 4 вартаўнікоў з сялян Балашоўскай воласці. Валасць да таго ж засыпала «грэблю» пад замкам, вазіла дровы і лес, неабходныя для будаўніцтва, рамонту і ацяплення. Ваенна-рамонтныя работы сяляне праводзілі ў 2 этапы: з 2 красавіка да канца чэрвеня на працягу 12 тыдняў і восенню з 1 верасня да канца лістапада. Доглядам і рамонтам фартыфікацый распараджаўся спец. гараднічы. Для гэтага і на ўтрыманне гарнізона замка траціласся 600 злотых, з іх 500 давалі мяшчане. З 16 ст. над аховай Г. з. пачаў разрастацца і г. Глуск, вакол яго таксама з'явіліся драўляна-земляныя ўмацаванні. Гіст. крыніцы згадваюць адну браму — «брозу от уезду Слуцкого», якая адчыняла шлях на цэнтр. вуліцу «места» — вуліцу Вялікую. У 17—18 ст. планавая кампазіцыя гар. умацаванняў не змянілася. Дакументы гэтага часу раскрываюць структуру ваеннай арганізацыі і павіннасцей гараджан. Усё мужчынскае насельніцтва аб'ядноўвалася ў 4 баявыя сотні на чале з сотнікамі. Старшым і «радцаю» над імі быў спец. «палкоўнік». Кожная сотня падраздзялялася на 10 дзесяткаў на чале з дзесятнікамі. Сотня і дзесятка неабавязкова налічвалі 100 ці 10 чалавек. Дзесяткі лічыліся не толькі ваеннай, але і пажарнай адзінкай. Усе жыхары Глуска тройчы ў год разам са сваімі старшымі абранымі праводзілі паводле загаду «попіс» са зброяй. Абавязкамі глускіх мяшчан з'яўляліся начная варта ў гар. браме і на рынку, насыпанне і рамонт замкавай грэблі і мастоў у горадзе і каля яго. Геаграфічнае размяшчэнне Г. з. надавала яму ранг важнага стратэгічнага пункта на шляху загонаў крымскіх татар у 16 ст., потым ён выконваў ролю цытадэлі супраць казацкіх паходаў з Украіны ў канцы 16—17 ст. У 1648 Глуск апынуўся ў гушчыні падзей антыфеад. барацьбы на Украіне і Беларусі. У кастрычніку 1648 яго занялі паўстаўшыя бел. сяляне і ўкр. казакі, якія потым рушылі на Бабруйск. Глуск і замак моцна пацярпелі тады і ад праходу войска Рэчы Паспалітай, а таксама ў вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67. У 1655 сейм Рэчы Паспалітай, улічваючы нанесеныя на працягу «казацкай вайны» гораду і яго войску страты і ў сувязі з новымі ваеннымі падзеямі, ад якіх Глуск «агнём і мечам датла разбуран», вызваліў яго ад экстраардынарных падаткаў на 10 гадоў. Г. з. праіснаваў да канца 18 ст., пасля прыйшоў у заняпад. Археал. раскопкі Г. з. не праводзіліся. У 1988 у ходзе земляных работ на тэр. замка археолагам Г. М. Сагановічам выяўлены кераміка жал. веку (фрагменты ляпных гаршкоў), кафля і гаршкі 16 ст., посуд і геральдычная кафля 17 ст., рэчы побыту 17—18 ст., а таксама мураваныя сутарэнні.

*Літ.*: 231, 743, 836, 904, 1505.

*М. А. Ткачоў.*

**ГЛУ́СКІ МАНЕ́ТНЫ СКАРБ.** Знойдзены ў г. Глуску ў 1960 у збане з чырвонай медзі.

Вядома 760 сярэбраных і білонных манет: польскія *соліды, паўтаракі*, шастакі, *орты*, літ. солід Зыгмунта III Вазы [1587—1632], польскія шастакі і злотыя (30-грашовікі), літ. шастакі Яна II Казіміра [1648—68], польскія шастакі і орты Яна III [1674—96], польскі і літ. шастакі 1697, 1706, 1709—33 Аўгуста II — манетныя двары Быдгашч, Кракаў, Львоў, Мальбарк, Познань, Вільня, Гродна, Коўна; зэхсгрошэры і орты Фрыдрыха Вільгельма [1640—88], Фрыдрыха III [1688—1701] — манетныя двары Кёнігсберг і Берлін; зэхсгрошэры Фрыдрыха I [1701—13], Фрыдрыха II [1740—86] — манетны двор Кёнігсберг; соліды і *драйпёлькеры* Густава II Адольфа [1611—32], солід Крысціны Аўгусты [1632—54] — манетныя двары Рыгі і Эльблёнга. Асаблівую цікавасць выклікае літоўскі шастак Аўгуста II, выпушчаны ў 1706 *Гродзенскім манетным дваром*, і польскі шастак Яна III 1678 (?) з кантрамаркай у выглядзе вензеля аднаго з кн. Патоцкіх. Ухаваны ў канцы 1750. Захоўваецца скарб часткова ў *Магілёўскім абласным краязнаўчым музеі* і *Бабруйскім краязнаўчым музеі.*

*Літ.*: 1578а. *В. Н. Рабцэвіч.*

**ГЛЫБА́Ў,** комплекс археал. помнікаў каля в. Глыбаў Рэчыцкага р-на.

Г а р а д з і ш ч а *мілаградскай культуры.* На паўд.-ўсх. ускраіне вёскі, ва ўрочышчы Гарадок. Пляцоўка авальная, памерам 160×110 м, абнесеная дугападобным валам выш. каля 2 м, шыр. 12—14 м (да пач. 1950-х г. за ім былі роў і другі вал). Адкрылі ў 1951 Ю. У. Кухарэнка і В. М. Мельнікоўская, даследавала ў 1954, 1955 і 1961 167 м² Мельнікоўская, абследавалі ў 1976 Г. В. Штыхаў, у 1988 М. І. Лашанкоў. Культурны пласт 0,4—0,6 м. Выяўлены рэшткі 2 жытлаў: слабыя контуры аднаго (захаваліся ямы розных форм і памераў), вузкія канаўкі ад сцен і ямкі ад слупоў, шматлікія ямкі ад калкоў вакол другога, квадратнага ў плане з цэнтр. апорным слупам. Побач выяўлены 2 гасп. ямы: скляпок і круглая глыб. 0,8 м з абпаленым каменнем у ёй.

Знойдзены каменная сякерка (клінападобная без адтуліны, з шліфаваным лязом, выш. 6,4 см), крамянёвы адшчэп са слядамі апрацоўкі, бронзавая пласцінка, верхні камень ад зерняцёркі, праслінцы (круглаватае і біканічнае з ямкавымі ўціскаваннямі па дыяметры), 3 гліняныя грузікі, абломкі ляпной керамікі (пасудзіны з круглым тулавам і дном і адагнутым венчыкам; з яйцападобным тулавам і дном без вызначанай шыйкі; са слабапрафіляваным тулавам, закругленым дном і шыйкай у выглядзе ўціснутай нешырокай палоскі каля краю венчыка), косці свойскай жывёлы і інш.

Заселена з сярэдзіны 1-га тысячагоддзя да 2 ст. да н. э.

К у р г а н н ы м о г і л ь н і к-1 дрыгавічоў. За 200 м на Пн ад гарадзішча. 3 курганы (раней было 9) выш. 1,5—2 м, дыям. 10—12 м. Даследаваў 2 курганы ў 1958 С. С. Шырынскі, абследаваў у 1976 Г. В. Штыхаў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў ямах пад насыпам. Знойдзены бронзавыя ўпрыгожанні, шкляныя пацеркі, бронзавы крыжык, упрыгожаны выемчастай эмаллю. Датуецца 12 ст.

К у р г а н н ы м о г і л ь н і к-2 дрыгавічоў. На тэр. сучасных каталіцкіх могілак. 4 насыпы выш. 1,5—2 м, дыям. 10—12 м. Даследаваў адзін курган у 1958 Шырынскі, абследаваў у 1976 Штыхаў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў яме пад насыпам. Знойдзены фрагменты ганчарнага посуду, бронзавыя ўпрыгожанні. Датуецца 12— пач. 13 ст.

*Літ.*: 772, 904, 1325.

*М. І. Лашанкоў, Г. В. Штыхаў.*

**ГЛЫБА́ЎКА,** паселішча *сожскай культуры.* За 300 м на ПдЗ ад в. Глыбаўка Веткаўскага р-на, на першай надпоймавай тэрасе левага берага р. Беседзь, ва ўрочышчы Бабулін Бугор. Выявіла ў 1979 і даследавала 558 м² у 1980—82 А. Г. Калечыц. Культурны пласт 0,3—0,6 м. Выяўлена 5 паўзямлянкавых жытлаў, 17 агнішчаў і 14 гасп. ям. Жытлы круглыя (дыям. каля 2,3 м) і авальныя (даўж. 2,5 м), паглыблены ў мацярык да 0,5 м. Агнішчы адкрытага тыпу размяшчаліся ў цэнтры ці каля сцяны жытла. Рэшткі даху і падлогі не выяўлены.

Знойдзена каля 33 тыс. вырабаў з крэменю: адна-, двух- і шматпляцовачныя нуклеусы, адшчэпы, пласціны, скрабкі, вял. скрэблы, скоблі, вуглавыя і бакавыя разцы, вастры, свярдзёлкі, 2 дрэнна апрацаваныя цяслы, наканечнікі стрэл з пласцін з рэтушаванымі тронкамі, мікраліты, рубячыя прылады (спрацаваныя нуклеусы, невял. валуны).

К у р г а н н ы м о г і л ь н і к. За 2 км на Пн ад вёскі, ва ўрочышчы Курганне. 7 насыпаў выш. 0,5—1,2 м, дыям. 5—12 м. Выяўлены ў 1910, абследавала ў 1976 С. М. Васільева.

*Літ.*: 479. *А. Г. Калечыц.*

**ГЛЫБО́ЦКАЕ,** археал. помнікі каля в. Глыбоцкае Гомельскага р-на.

Г а р а д з і ш ч а. За 500 м на З ад вёскі, на беразе балота Струпаў. Пляцоўка дыям. 20 м. Вядома з 1873, абследавалі ў 1910 Е. Р. Раманаў, у 1976 У. У. Багамольнікаў. Як паведамляў Раманаў, пры с.-г. работах на пляцоўцы сяляне знайшлі скарб арабскіх дырхемаў.

К у р г а н н ы м о г і л ь н і к. На беразе ручая і балота Струпаў. 5 насыпаў. У канцы 19 ст. даследаваў Е. Р. Раманаў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне. Знойдзены ўсх. манеты 9—10 ст. Датуецца прыблізна канцом 10—11 ст.

*Літ.*: 981. *А. А. Макушнікаў.*

**ГЛЫБО́ЦКІ ЗА́МАК.** У пісьмовых крыніцах паселішча Глыбокае ўпамінаецца ў 1514 як уладанне магнацкіх родаў Корсакаў і Зяновічаў. Рака Беразвеч падзяляла яго на 2 умацаваныя «двары», вакол якіх у сваіх «слабодах» жыло «цяглае» насельніцтва. У 1563—79 у час Лівонскай вайны 1558—83 «двары» знішчаны, але пазней адноўлены. Уладанні Корсакаў былі падараваны касцёлу кармелітаў босых, а ўладанні

Зяновічаў перайшлі да Радзівілаў, якія на месцы «двара» пабудавалі драўляны замак. На карце М. Струбіча «Тэатр вайны за Інфлянты» (1589) адзначаны Г. з. Апісанні замка таго перыяду невядомыя, аднак ён наўрад ці адрозніваўся ад традыцыйных тагачасных збудаванняў з земляным валам, драўлянымі сценамі і вежамі.

30.6.1654 пад сценамі Г. з. адбыўся бой паміж атрадам войска ВКЛ і рус. войскам на чале з думным дваранінам Ж. В. Кондыравым. Паводле дакументаў, 2.8.1654 паселішча Глыбокае і Г. з. былі спалены «без остатку». Рус. войскі пакінулі Глыбокае праз паўгода, аднак у жн. 1658 сюды прыбыў для будаўніцтва «острога» ваявода Б. Бешанцаў. Астрог пачалі ставіць на месцы двара пана Корсака. Бешанцаў паведамляў, што «...крепость с двух сторон вал и вода, пруды копаные глубокие. А с двух сторон место ровное». З-за недахопу людзей астрог рабіўся «небольшой, наскоро, для поспешанья». 7.1. 1659 (па некаторых звестках у 1660) атрад войска палкоўніка ВКЛ В. Валовіча ўзяў штурмам Г. з. і спаліў яго, а захопленыя гарматы адвёз у Даўгінаў. Пазней замак быў адноўлены і праіснаваў да канца 18 ст. У 1700 у час Паўн. вайны (1700—21) замак і горад моцна пацярпелі ад пажару, а таксама ад рабаўніцтва саксонскага войска. Паступова замчышча было забудавана, але вуліца Замкавая яшчэ згадвалася ў дакументах канца 18—19 ст.

*Літ.*: 201, 257, 759, 1432а.

*М. А. Ткачоў.*

**ГЛЫБО́ЧЫЦА,** курганны могільнік *жалезнага веку* каля в. Глыбочыца Лепельскага р-на. На беразе воз. Глыбочыца, ва ўрочышчы Княгінкі. Курганы выш. 1,5—2 м, дыям. не менш за 10 м. У 1851, 1859 М. Ф. Кусцінскі раскапаў некалькі курганоў, у 1951 А. Р. Мітрафанаў — адзін, у 1976 — тры курганы. Пахавальны абрад — трупапалажэнне.

Знойдзены жал. сякеры, коп'і, драцяны бранзалет з нанізанымі на яго паставымі пацеркамі; у жаночым пахаванні былі шкляныя пацеркі з пазалотай (12 ст.), бронзавая зярнёная пацерка дрыгавіцкага тыпу, драцяное скроневае кольца з пятлёй на адным канцы і кручком на другім (12—13 ст.).

Курганы насыпаны на месцы паселішча 3-й чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э.

*Літ.*: 34, 630.

**ГЛЯДНЕ́ВІЧЫ,** комплекс археал. помнікаў каля в. Глядневічы Ваўкавыскага р-на.

Стаянка-1 ранняга *мезаліту.* За 0,5 км на ПдУ ад вёскі, на першай надпоймавай тэрасе правага берага р. Рось. Выявіў у 1958 Л. С. Клейн, даследавалі 40 м² М. М. Чарняўскі, у 1986 Н. В. Шаблюк. Культурны пласт 0,2 м. Знойдзены алоўкавападобны нуклеус, канцавыя скрабкі з пласцінак, адшчэпы і сколы ад нуклеусаў, пласцінкі і іх рэшткі. Датуецца 8—7-м тысячагоддзямі да н. э.

Стаянка-2 ранняга мезаліту. За 250 м на ПнУ ад стаянкі-1. Памер 170×20 м. Выявіў у 1958 Клейн, даследавала 40 м² у 1986 Н. В. Шаблюк. Культурны пласт 0,35 м. Выяўлены адшчэпы, пласцінкі, укладышы на адшчэпах, канцавыя скрабкі з адшчэпаў, праколкі, скоблі, канічны нуклеус. Датуецца 8—7-тысячагоддзямі да н. э.

Стаянка-3 позняга мезаліту. За 650—700 м на Пн ад стаянкі-2, на краі тэрасы правага берага р. Рось. Даўж. 150 м. Выявіла і даследавала ў 1986 Н. В. Шаблюк. Культурны пласт 0,65 м. Знойдзены нуклеусы, адшчэпы, пласцінкі і іх рэшткі, нажы, скрабкі, скоблі, праколкі. Датуецца 5—4 тыс. да н. э.

Стаянка-4 позняга мезаліту. За 300 м на Пн ад стаянкі-2, на схіле першай надпоймавай тэрасы правага берага р. Рось. Даўж. каля 200 м. Культурны пласт да 0,35 м. Знойдзены нуклеусы і іх сколы, адшчэпы, пласцінкі, праколкі, скрабкі, рэжучыя прылады, скобля, фрагменты керамікі *бронзавага веку.*

Стаянка-5 позняга мезаліту. За 400 м на ПнУ ад стаянкі-4, на схіле першай надпоймавай тэрасы правага берага р. Рось. Выявіў у 1985 В. У. Шаблюк, даследавала 80 м² у 1986—88 Н. В. Шаблюк. Культурны пласт каля 0,4 м.

Знойдзены нуклеусы, адшчэпы (некаторыя з рэтушшу), рэтушоры, разцы, скоблі, 2 праколкі, пласцінка-ўкладыш, канцавыя скрабкі, нажы, ланцэтападобныя пласцінкі, мікрапласцінкі з рэтушшу, трапецыі, фрагменты ляпных пасудзін з дамешкамі шамоту ў гліне, упрыгожаных падвертыкальнымі расчосамі (2—5 ст.).

Датуецца 6—5-м тысячагоддзямі да н. э.

Селішча-1 позняга сярэднявечча. На паўд. ускраіне вёскі. Выявіла ў 1958 Ф. Д. Гурэвіч, абследаваў у 1973 Я. Г. Звяруга. Знойдзена ганчарная кераміка (фрагменты пасудзін з дамешкамі жарствы ў гліне).

*Літ.*: 272.

*В. У. Шаблюк, Н. В. Шаблюк.*

**ГЛЯК,** глёк, лячок, гліняная шарападобная пасудзіна з вузкім (дыям. 3—6 см) горлам з літком, пляскатым шырокім дном і з адным ці двума вушкамі, ганчарны выраб. Памерамі ад цацачных да 8—10 л. З 16 ст. выраблялі пераважна паліваныя Г., радзей задымленыя ці глянцаваныя. Паверхню часта ўпрыгожвалі геам. ці раслінным арнаментам, які наносілі гравіраваннем, штампікам, пакрывалі зялёнай, карычневай, светла-карычневай ці празрыстай глазурай. Выкарыстоўвалі Г. для захоўвання, транспартавання вады, квасу, алею, піва і інш.

**ГЛЯНЦАВА́ННЕ,** спосаб апрацоўкі керамічнага посуду, у выніку якога ўшчыльнялася яго паверхня і ёй надаваўся бляск. Для вырабу глянцаваных пасудзін выкарыстоўвалі гліняную цеста, ачышчанае ад прыродных дамешкаў, але ў яго дабаўлялі дробны кварцавы пясок і шамот. Сфармаваныя вырабы прасушвалі, потым іх паверхню старанна загладжвалі каменнай або касцяной глянцавалкай і дадаткова паліравалі да бляску кавалкам скуры. Паводле колеру пасудзіны былі карычневыя і чорныя. Карычневы колер утвараўся пры абпальванні керамікі на адкрытым вогнішчы. Для атрымання чорнага колеру выкарыстоўвалі чарненне або абварванне. Пры чарненні абпаленыя вырабы ўтрымлівалі ў аднаўленчым асяродку. Для гэтага ў печ клалі паліва, якое давала шмат дыму, а печ замуроўвалі. Пры абварванні распаленыя пасудзіны апускалі ў ёмістасць з цёплым хлебным растворам, пасля зноў змяшчалі ў зачыненую печ або астуджвалі на адкрытым паветры. Упершыню на тэр. Беларусі глянцаваная кераміка паявілася ў плямён *паморскай культуры*, але найбольшае пашырэнне атрымала ў *зарубінецкай культуры.* Выкарыстоўвалася пераважна ў якасці пахавальных урнаў і пахавальнага інвентару, на паселішчах трапляецца вельмі рэдка. У 2-й чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. яна бытавала ў плямён *вельбарскай культуры і кіеўскай культуры,* пасля чаго выйшла з ужытку.

*Літ.*: 135, 875. *А. А. Егарэйчанка.*

**ГНЕ́СІЧЫ,** стаянка каля в. Гнесічы Навагрудскага р-на. За 200 м ад правага берага Нёмана, на дзюне памерам 120×150 м, на нізкім пойме. Выявіў у 1973 г. М. А. Ткачоў. Помнік у значнай ступені развеяны, на краях захаваўся культурны пласт да 0,3 м.

На пясчанай паверхні сабраны разнастайны крамянёвы інвентар і кераміка: мезалітычныя знаходкі — лістападобныя наканечнікі стрэл і інш. вырабы, блізкія да познасвідэрскіх, прылады працы і фрагменты керамікі нёманскай неалітычнай культуры, матэрыялы сярэднябронзавага часу тшцінецкай культуры, а таксама ганчарная кераміка.

*М. М. Чарняўскі.*

**ГО́ЖА,** стаянка *свідэрскай культуры* эпохі ранняга мезаліту (10—7-е тысячагоддзі да н. э.) каля в. Гожа Гродзенскага р-на. За 500 м на Пн ад вёскі, на краі высокай правабярэжнай тэрасы Нёмана, каля левага берага р. Гожа і аўтадарогі Гродна — Друскінінкай. Выявіў у канцы 19 ст. З. Глогер, даследавалі ў пач. 20 ст. Ю. Ядкоўскі, у 1976 М. М. Чарняўскі. Культурны пласт да 0,4 м.

У ім на пясчаных выдмах знойдзены крамянёвыя вырабы: лістападобныя наканечнікі стрэл, скрабкі на пласцінках, разцы, рубячыя прылады, двух пляцовачныя прызматычныя нуклеусы і інш.

*Літ.:* 910. *М. М. Чарняўскі.*

**ГО́МЕЛЬ,** летапісны Гомей, Гомий, Гомин, Гомь, Гомье

горад абл. падпарадкавання, цэнтр Гомельскай вобл. на р. Сож. За 301 км на ПдУ ад Мінска. Эканамічны і культ. цэнтр, вузел чыгунак (на Жлобін, Калінкавічы, Чарнігаў, Шчорс, Навазыбкаў) і аўтамабільных дарог (на Магілёў, Калінкавічы, Бабруйск, Чарнігаў). Рачны порт. Аэрапорт.

Дзядзінец страж. горада ўзнік на месцы гарадзішча жал. веку, якое размяшчалася на мысе правага карэннага берага р. Сож у вусці ручая Гамяюк. У 10—11 ст. яго плошча менш за 1 га. З боку поля дзядзінец быў умацаваны дугападобным ровам і земляным валам, а па перыметры пляцоўкі, верагодна,— драўляным парканам. Не пазней пач. 12 ст. першапачатковыя фартыфікацыі былі знівеліраваны, пл. павялічана да 1,4 га. Паводле плана Гомеля 1799, дзядзінец меў авальна-трапецападобную форму, ад вакольнага горада аддзяляўся ровам шыр. больш за 30 м. У 12 ст. тут узводзіліся мураваныя будынкі, пра што сведчаць знаходкі плінфы жоўтага колеру. У пач. 13 ст. пляцоўка дзядзінца дадаткова ўмацавана ўнутраным кальцом абароны, якое складалася з рова і землянога вала з драўлянымі канструкцыямі. Гэтыя ўмацаванні дзядзінца згарэлі ў 1-й пал. 13 ст. ў час штурму Гомеля мангола-татарскімі атрадамі (у пласце пажару выяўлены мангольскія наканечнікі стрэл). Археал. раскопкі дзядзінца праводзілі І. Х. Ючанка (1926), М. А. Ткачоў (1975), А. А. Макушнікаў (1988). Культурны пласт да 2,5 м.



Наканечнік ножнаў мяча 11—13 ст. з раскопак у **Гомелі.**



Пярсцёнкі і пацеркі 11—13 ст. з раскопак у **Гомелі.**

Знойдзены фрагменты ганчарных пасудзін, у т. л. паліваных, асколкі шклянога посуду, бронзавыя ўпрыгожанні (шкляныя пацеркі і бранзалеты), жал. нажы, замкі, ключы, крэсівы, каменныя жорны, наканечнікі стрэл, шпоры, абломкі візантыйскіх амфар, касцяных грабеньчыкаў, каменны крыжык і інш. Да рэдкіх знаходак належаць абрыўкі кальчуг, жал. перакрыжжа мяча, касцяны нацельны крыжык у свінцовых апраўах, касцяное дзяржанне, інкруставанае каляровымі металамі, а таксама шыфернае прасліца з літарападобнымі знакамі (магчыма, рэшткі надпісу). Пра заняткі насельніцтва ювелірнай і бронзаліцейнай справай сведчаць знаходкі тыгляў, аплаўленых кавалкаў бронзы, пінцэта і інш. У 14—18 ст. на месцы дзядзінца існаваў *Гомельскі замак.*

На Пн і З ад дзядзінца паміж ярамі Гамяюк і Кіеўскі спуск у 10—13 ст. і пазней знаходзіўся вакольны горад. Даследаваў 953 $м^2$ у 1986—87 Макушнікаў. Культурны пласт 0,5 м. Раскопкамі ўстаноўлена, што вакольны горад узнік на месцы слав. паселішча 2-й пал. 1-га тысячагоддзя. У ніжнім гарызонце (6—7 ст.) выяўлены рэшткі жытла *калочынскай культуры* (паўзямлянкавага, квадратнага ў плане, слупавой канструкцыі) з печчу-каменкай у куце, рэшткі вытворчай пабудовы па апрацоўцы балотнай руды, бескурганнае ямнае пахаванне па абраду трупаспалення, грубыя ляпныя неарнаментаваныя рабрыстыя і слабапрафіляваныя пасудзіны, гліняныя ўсечана-біканічныя прасліцы, бронзавая пальцавая фібула. У 10 ст. функцыяніраваў абарончы пояс, які складаўся з рова, невял. землянога вала з драўлянымі канструкцыямі, ахопліваў плошчу ад 3 да 8 га. У сувязі з ростам горада ў пач. 1-й пал. 11 ст. першапачатковыя ўмацаванні былі знівеліраваны. У 12—13 ст. плошча ўмацаванага вакольнага горада перавышала 12 га (паводле плана Гомеля 1799). Пры раскопках выяўлены рэшткі наземных і паглыбленых у зямлю пабудоў зрубнай і слупавой канструкцыі з каменнымі і глінабітнымі печамі, гасп. будынкаў, у т. л. зброевай майстэрні.

Яна ўяўляла сабой паглыбленае на 0,9—1 м у мацярык *падклецце* прамавугольнай формы з рэшткамі зруба з бярвення памерам 4,4×4,2 м. Да падклецця прымыкалі рэшткі ганкасенцаў. У куце падклецця вышэй узроўню мацерыка выяўлены развал глінабітнай печы (пласт абпаленай гліны памерамі 1,5×0,75×2×0,85 м), у цэнтры памяшкання — агнішча дыям. 1—1,2 м. Пабудова згарэла ў час пажару, ніжняя частка яе запаўнення перакрыта абвугленымі драўлянымі канструкцыямі. На падлозе сабраны нешматлікія абломкі ганчарных пасудзін, 12 фрагментаў шкляных бранзалетаў, некалькі навясных замкоў, абвугленае збожжа і інш. Сярод прылад працы свярдзёлкі, фрагменты тачыльнага каменя, больш за 20 асялкоў, напільнік. На падлозе знойдзена каля 1500 цэлых і зламаных жал. пласцін для зборкі пласціністых панцыраў, 10 фрагментаў кальчужнага пляцення для зборкі розных кальчуг (ад 1—10 да 150—200 кольцаў у кожным фрагменце, усяго больш за 600 плоскіх і круглых кольцаў), абломкі жал. наручаў, 1 бронзавае і 11 жал. перакрыжаванняў, 4 жал. навершы мячоў і шабляў, абломак наканечніка ножнаў шаблі, пласціністае дзяржанне ножнаў шаблі, абломак драўляных ножнаў мяча. Расчыстка прадметаў узбраення выявіла выразныя сляды іх апрацоўкі на месцы (незакончаныя вырабы, дэфекты работы).





Віслая пячатка (правы і адваротны бакі) 12—13 ст. з **Гомеля.**

Па характары, разнастайнасці і колькасці знаходак зброевая майстэрня не мае аналагаў на тэр. Страж. Русі і ўпершыню дае магчымасць для абгрунтаванай рэканструкцыі працэсу зборкі і знешняга выгляду страж.-рус. пласціністага

панцыра. Майстэрня датуецца 12— пач. 13 ст.

У культурным пласце вакольнага горада 11—13 ст. сабраны сотні абломкаў шкляных бранзалетаў, пярсцёнкаў, больш за 100 пацерак, асколкі шкляного посуду, бронзавыя падвескі, скроневыя кольцы, бранзалеты, пярсцёнкі, часткі звона, крыжоў-складняў, трымальнік лампадкі, чаша вагаў, наканечнік ножнаў мяча, касцяныя грабяні, вухавёрткі, жал. наканечнікі стрэл, шпоры, абрывак кальчугі, інструменты (у т. л. пінцэт, зубіла, прабойнік, шылы, тыглі, льячкі, скоблі, долаты і інш.), крэсівы, замкі, ключы, сярпы, каса, акоўкі рыдлёвак, спружынныя нажніцы, туфавыя і шыферныя жорны і інш. Знойдзены унікальны жал. наканечнік стралы з двухбаковай выявай трызубцаў княжацкай дынастыі Рурыкавічаў. Насельніцтва вакольнага горада 11—13 ст. займалася ювелірна-бронзаліцейнай і касцярэзнай справай, дрэваапрацоўкай, промысламі, земляробствам і жывёлагадоўляй. Магчыма, з 12 ст. атрымала развіццё апрацоўка бурштыну, ёсць прыкметы мясц. шкларобства і вытворчасці паліванай керамікі. Пра гандл. сувязі з Кіевам сведчаць знаходкі шкляных вырабаў, прадметаў культу, абломка глінянага яйца-пісанкі, з Валынню — оўруцкага сланцу і шыферных прасліц, з Візантыяй — абломкаў паўн.-прычарнаморскіх амфар, шкляных бранзалетаў.

Стараж.-рус. перыяд у жыцці вакольнага горада завяршыўся ў 1-й пал. 13 ст., калі яго пабудовы загінулі ў час моцнага пажару. Да перыяду ВКЛ (14—16 ст.) адносяцца сляды драўляных жытлаў з паглыбленай у мацярык падлогай, ганчарная кераміка, жал. прылады працы і прадметы побыту, наканечнікі стрэл. Інтэнсіўнасць жыцця ў параўнанні з папярэднім перыядам у гэты час прыкметна аслабела. У 17—18 ст. тэр. вакольнага горада была забудавана драўлянымі дамамі жылога і гасп. прызначэння, частка пабудоў мела паглыбленыя ў мацярык падклецці.

Сярод знаходак ганчарны і шкляны посуд, архіт.-дэкаратыўная кераміка, аконнае шкло, манеты Рэчы Паспалітай, Швецыі і Расійскай імперыі, шматлікія прадметы побыту (спражкі, нажы, брытвы, абутковыя падкоўкі, курыльныя люлькі, цацкі і інш.), прылады працы (нажніцы, каса, абцугі і інш.), прадметы ўзбраення (свінцовыя кулі, ружэйныя ствалы, шпора і інш.).

У 11—12 ст. да вакольнага горада прымыкалі п а с а д ы. Адзін з іх узнік ва ўрочышчы Спасавая Слабада не пазней 11 ст. і развіваўся на Пд ад вакольнага горада ўздоўж правых берагоў Сажа і ручая Гамяюк. У 1975 Ткачоў даследаваў 108 м². Культурны пласт 0,9—1,6 м. У 1986 шурфоўку і абследаванне правёў Макушнікаў. Выяўлены рэшткі жытла 12—13 ст. з развалам глінабітнай печы, абломкамі ганчарных гаршкоў, фрагментам візантыйскай амфары. Знаходкі 11—13 ст. прадстаўлены ганчарным посудам, вырабамі з косці, бронзавымі ўпрыгожаннямі, жал. прыладамі працы і побыту, прадметамі ўзбраення. Жыхары пасада займаліся рознымі промысламі і рамёствамі, сярод якіх вылучаліся апрацоўка жалеза і каляровых металаў, выраб скур. Жыццё на пасадзе працягвалася ў 14—17 ст., пра што сведчаць выяўленыя тут кераміка, пячная кафля, манеты. Д р у г і п а с а д адкрыты Макушнікавым і А. І. Драбушэўскім у 1987 на Пн ад вакольнага горада за Кіеўскім спускам. Ён узнік у 12 ст. Размяшчаўся на высокай карэннай тэрасе Сажа.



Пласціны ад панцыра 13 ст. з раскопак у **Гомелі**.

У час буд. работ выяўлены рэшткі збудаванняў 12—13 ст., стараж.-рус. кераміка, шкляныя бранзалеты, шыферныя прасліцы, сляды пабудоў 17—18 ст. з кафлянымі печамі, сярэдневяковыя пахаванні па абраду трупапалажэння ў магільных ямах. Сляды т р э ц я г а п а с а д а ёсць на нізкай надпоймавай тэрасе Сажа каля падножжа дзядзінца, вакольнага горада, 1-га і 2-га пасадаў. Культурны пласт разбураны ракой і ў час буд. работ. У 1978—88 М. У. Бычкоў, У. А. Літвінаў, Макушнікаў сабралі тут шмат прадметаў стараж.-рус. часу, эпохі ВКЛ і Рэчы Паспалітай (11—18 ст.): кераміка, кафля, гліняныя і каменныя прасліцы, спражкі, крэсівы, упрыгожанні з каляровых металаў, манеты і інш.

Г. узнік у канцы 1-га тысячагоддзя н. э. як племянны цэнтр *радзімічаў*. У 11 ст. ўвайшоў у склад Чарнігаўскага княства. Упершыню ўпамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе ў 1142 у сувязі з барацьбой чарнігаўскіх князёў Ольгавічаў і Манамахавічаў за валоданне вялікакняжацкім тронам у Кіеве. Смаленскі кн. Расціслаў Мсціславіч часова захапіў прылеглую да горада воласць. Стаўшы вял. князем, чарнігаўскі кн. Ізяслаў Давыдавіч пакінуў за сабой Г. У 1159 у час міжусобных сутыкненняў ён уцёк з Кіева ў Г. У 1160 яму зноў удалося вярнуць кіеўскі трон. У 1161 пасля смерці Ізяслава Давыдавіча Г. перайшоў да яго стрыечнага брата Святаслава Ольгавіча. У 1164 чарнігаўскі кн. Святаслаў Усеваладавіч аддаў горад свайму сыну. Магчыма, у сярэдзіне 12 ст. Г. стаў цэнтрам удзела. У канцы 12 ст. належаў ноўгарад-северскім князям Алегу і Ігару Святаславічам. У 12 — пач. 13 ст. быў адным з самых значных гарадоў у зямлі радзімічаў. У 1239 Чарнігаўская зямля падверглася спусташальнаму мангола-татарскаму набегу. Летапісных сведчанняў пра разбурэнне Г. няма, аднак пры раскопках адзначаны моцны пажар у 1-й пал. 13 ст., які, верагодна, звязаны з падзеямі мангола-татарскага нашэсця. Каля 1335 Г. увайшоў у склад ВКЛ, утварыўшы разам з г. Старадубам удзел кн. Патрыкія Нарымунтавіча, пляменніка вял. кн. Альгерда, да 1406 належаў сынам Патрыкія Івану і Аляксандру. Па іншых звестках, у 2-й пал. 14 ст. Г. валодаў падольскі кн. Фёдар Карыятавіч. У канцы 14 ст. ўпамінаецца ў «Списке городов русских дальних и ближних» у ліку «кіеўскіх» гарадоў. У 1406—19 Г. кіравалі вялікакняжацкія намеснікі, у 1419—35 належаў кн. Свідрыгайлу, у 1446—52 — збегламу рус. кн. Васілю Яраслававічу Бароўскаму. З 1452 зноў уваходзіў у склад уладанняў кн. Свідрыгайлы. Пасля яго смерці перайшоў да збеглага рус. кн. Івана Андрэевіча Мажайскага, а прыблізна з 1483 — да яго сына Сямёна. У канцы 15 ст. горад — невялікае добра ўмацаванае гандлёва-рамеснае паселішча з замкам у цэнтры. Вясной 1500 Сямён Іванавіч адмовіўся прыняць каталіцтва і звярнуўся за дапамогай да Масквы, неўзабаве ў Г. паявіўся гарнізон рус. войск. З 1537 горад зноў у складзе ВКЛ, цэнтр Гомельскага староства, з 1565 у Рэчыцкім пав. Мінскага ваяводства. З 1561 побач з замкам у пісьмовых крыніцах упамінаюцца Гомельскія гар. ўмацаванні. У 1595 у час казацка-сялянскага паўстання пад кіраўніцтвам С. Налівайкі горад захоплены паўстанцамі. У час антыфеад. вайны 1648—54 Г. у 1648 быў заняты казацкім атрадам Галавацкага і мясц. сялянамі, у 1649 — атрадам М. Нябабы. У рус.-польскую вайну 1654—67 горад і наваколле знаходзіліся пад кантролем казацкіх войск І. Залатарэнкі і І. Нячая. Паводле Андросаўскага перамір'я 1667 Г. застаўся ў складзе Рэчы Паспалітай, у 1670 атрымаў магдэбургскае права. У 1772 паводле 1-га падзелу Рэчы Паспалітай горад увайшоў у склад Расійскай імперыі.

*Літ.:* 119, 200, 686, 730, 848, 1189, 1193. *А. А. Макушнікаў.*

**ГО́МЕЛЬ,** курганныя могільнікі эпохі Кіеўскай Русі каля в. Гомель Полацкага р-на.

М о г і л ь н і к - 1. За 2 км на ПдЗ ад вёскі, пры дарозе ў в. Заазер'е. 24 насыпы выш. 1—2 м, дыям. 6—10 м. Абследаваў у 1955 Л. В. Аляксееў, раскапаў 1 курган у 1972 Г. В. Штыхаў. Знойдзены шкілет чалавека. Пахавальны абрад — трупапалажэнне. Датуецца 12—13 ст.

М о г і л ь н і к - 2. За 2 км на У ад могільніка-1, 2 насыпы выш. 3 м і 2 м, дыям. 16 м і 10 м. Абследавалі ў 1955 Аляксееў, у 1972 Штыхаў. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* 34. *Г. В. Штыхаў.*

**ГО́МЕЛЬСКІ АБЛАСНЫ АРХЕАЛАГІ́ЧНЫ ЦЭНТР.** Адкрыты

11.6.1990 у Гомелі як н.-д. ўстанова. Выконвае ахоўныя археал. даследаванні помнікаў археалогіі Гомельскай вобл., якія разбураюцца пад час будаўніцтва і інш. гасп. работ. У 1990 археал. атрады цэнтра правялі ахоўныя даследаванні на пасадах стараж. гарадоў Рэчыца і Гомель. У Рэчыцы на пл. каля 1100 м² вывучаліся рэшткі сядзіб 12—18 ст. з жылымі, гасп. і вытворчымі пабудовамі, пахаваннямі. У Гомелі даследавалася каля 940 м² культурнага пласта 12—13 ст. з рэшткамі сядзібнай забудовы.

*Літ.:* 731. *А. А. Макушнікаў.*

**ГО́МЕЛЬСКІ АБЛАСНЫ́ КРАЯЗНА́ЎЧЫ МУЗЕ́Й.** Адкрыты 7.11. 1919 у Гомелі. Прадстаўлены разнастайныя знаходкі з Гомельшчыны ад палеаліту да 17 ст.

У фондах захоўваецца каля 100 тыс. прадметаў археалогіі (1991), у т. л. матэрыялы з раскопак *Бердыжа* (крамянёвыя скрабкі, наканечнік з бакавой выемкай, нажападобныя пласціны, разцы), *Гарошкава* (бронзавыя бранзалеты латэнскага тыпу, фрагменты гліняных тыгляў і льячак), *Мілаграда* (гліняныя ляпныя пасудзіны 6—3 ст. да н. э.), *Дзям'янак* (ганчарныя пасудзіны, манетападобныя падвескі, 7-прамянёвыя скроневыя кольцы, каменныя і шкляныя пацеркі), Чачэрскага гарадзішча (гліняная тэракотавая і паліваная кафля), Ходасавіч (гліняная вастрадонная пасудзіна з грабеньчатым арнаментам, медныя акулярападобныя падвескі, сякера).

Супрацоўнікі музея ўдзельнічалі ў археал. экспедыцыях Ін-та гісторыі АН БССР і Ін-та археалогіі АН СССР. З пач. 1980-х г. праводзяць самастойныя палявыя даследаванні. У музеі створаны аддзел археалогіі, які праводзіць палявыя работы на падставе адкрытых лістоў АН Беларусі. Выяўлены дзесяткі помнікаў эпохі неаліту, бронзавага, жал. вякоў, сярэднявечча, сабраны тысячы стараж. вырабаў (У. А. Ліцвінаў, пач. 1980-х г.). Праведзены раскопкі могільніка *Юркавічы*, дзядзінца, вакольнага горада летапіснага Гомеля, адкрыты рэшткі слав. паселішча 6—9 ст., умацаванні горада летапіснага часу, багатага культурнага пласта 12—13 ст. і пазнейшага часу з рэшткамі жылых і гасп. пабудоў, майстэрняў, абарончых збудаванняў горада (Макушнікаў А. А.). У 1986 супрацоўнікамі вызначаны ахоўныя зоны археал. помнікаў Гомеля, з 1987 дзейнічае археал. выстаўка «Старажытны Гомель».

*А. А. Макушнікаў.*

**ГО́МЕЛЬСКІ ЗА́МАК.** Існаваў у 14—18 ст. у сутоках ручая Гамяюк (Гомій) і р. Сож. Размяшчаўся на высокім правым беразе ракі і быў аддзелены ад гар. забудовы, што абкружала яго з З і Пд, абарончым ровам шыр. 30—35 м. Пляцоўка мела сегментападобную форму з перыметрам умацаванняў каля 460 м. Стромкія і высокія схілы ў бок Сажа і Гомія ўдала спалучаліся са штучнымі ўмацаваннямі. Замак меў магутны абарончы вал, драўляныя шмат'ярусныя вежы, сцены-гародні з баявой галерэяй — бланкаваннем, уязную браму з перакінутым цераз роў пад'ёмным мостам — «узводам». Сцены ўмацаванняў на значную вышыню былі абмазаны глінай, якая засцерагала іх ад гніення і выконвала процipажарную ролю. З замка патаемны падземны ход вёў да Сажа, адкуль у час аблогі бралі ваду. З 1561 побач з умацаваннямі Г. з. ўпамінаюцца і ўмацаванні «места» — лініі ўласна гар. фартыфікацыі. Гомель быў абкружаны земляным валам, наверсе якога знаходзіліся драўляныя вежы і сцены-гародні. Уезд і выезд быў праз брамы Чачэрскую, Магілёўскую, Рэчыцкую і Водную, якая выводзіла на гар. гандл. прыстань. Перад валам з З ішоў глыбокі абарончы роў з перакінутымі цераз яго пад'ёмнымі мастамі, падведзенымі да брам горада.

З канца 1-й трэці 14 ст. Гомель з'яўляўся парубежным умацаваным горадам на паўд.-ўсх. ускраіне ВКЛ, уваходзіў у абарончы пояс замкаў Пасожжа. У гэты час горадам і замкам валодаў кн. Патрыкій Нарымунтавіч, пляменнік вял. князя Альгерда, у 1406—19 — велікакняжацкі намеснік, да 1435 — кн. Свідрыгайла, у 1436—52 — збеглы рус. кн. Васіль Яраслававіч Бароўскі, з 1452 — зноў Свідрыгайла. Пасля смерці апошняга Гомель аддалі збеглым мажайскім князям, адмова іх у 1499 ад прыняцця каталіцтва прывяла да працяглай барацьбы за валоданне горадам. У 1500 у гэтую барацьбу ўмяшаўся маскоўскі вял. князь, у якога мажайскія ўцекачы знайшлі падтрымку. У выніку да 1535 на Гомель амаль штогод нападалі войскі ВКЛ, аднак ён кожны раз вытрымліваў аблогі. Гэта з'яўляецца доказам магутнасці яго вежаў і сцен, за якімі маскоўскія князі пастаянна трымалі значны гарнізон. У чэрвені 1535 Гомель асадзіла моцнае войска вял. кн. ВКЛ і караля Польшчы Жыгімонта І Старога на чале з гетманам ВКЛ Юрыем Радзівілам, гетманам каронным Янам Тарноўскім і кіеўскім ваяводам Андрэем Нямірам. Паводле Патрыяршага летапісу, намеснік рускі кн. Дзмітрый Шчэпін-Абаленскі, які знаходзіўся ў Гомелі, аказаўся «не храбр и страшлив, видев люди многие и убоявся, из града побежал, и дети боярские с ним же и пищалники». У замку засталіся толькі «тутошние люди немногие Гомьяне», якія, убачыўшы «воеводское нехрабрство и страхование... здаша град». У хуткім часе замак быў адрамантаваны і папоўнены боеприпасамі. Велікакняжацкі падскарбій Іван Гарнастай накіраваў сюды «вси потребы — салетру и порох и кули и свинец». Значэнне Г. з. для абароны ВКЛ асабліва павялічылася ў сувязі з бязлітаснай барацьбой супраць пастаянных разбуральных набегаў крымскіх татар. Зыходзячы з таго, што «...иж кождому оборона и осторожность есть потреба», сюды з бліжэйшых гарадоў накіроўваліся хлебныя запасы і спец. групы коннай «сторожи», а з Віленскага арсенала ў 1552, 1562 і 1563 дастаўляліся ўзбраенне і амуніцыя. У час Лівонскай вайны 1558—83 Гомелем ненадоўга авалодалі войскі Івана Грознага, аднак у ліпені 1576 атрад на чале з Юрыем Радзівілам зноў захапіў яго. 5.5.1581 горад зведаў яшчэ адзін напад царскіх войск, якія «...до замку неведоме ночью пришедши, на место ударили и место огнем выпалили», але замак не ўзялі. У час рус.-польскай вайны 1614—15 у замку пастаянна знаходзіўся невял. гарнізон з 40 казакоў і 40 салдат. У 1633 горад і замак вытрымалі штурмы казацкіх сотняў Багдана Булгакава і Івана Ярмоліна. У выніку ваен. падзей сярэдзіны 17—18 ст. Г. з. зведаў шмат аблог і разбурэнняў. У 1737 уладальнік Гомельскага старосты кн. Міхаіл Чартарыйскі пабудаваў тут новы моцны дубовы замак з вежамі і сценамі, у якіх былі шматлікія байніцы, паглыбіў равы і адрамантаваў пад'ёмны мост. Пасля далучэння Усх. Беларусі да Расіі ў 1772 Гомель падараваны «для увеселения» графу П. А. Румянцаву. Ён застаў даволі моцны замак, абнесены палісадам, які існаваў яшчэ ў 1780. Потым вежы і сцены драўлянага замка былі разабраны, валы скапаны. У 1785 паводле плана Б. Растрэлі тут пачалося будаўніцтва існуючага і цяпер каменнага палаца.

*Літ.:* 1189. *М. А. Ткачоў.*

**ГО́МЕЛЬСКІ КУРГА́ННЫ МО́ГІЛЬНІК** радзімічаў, каля б. в. Любны (цяпер у межах горада). На беразе возера ў правабярэжжы р. Сож, ва ўрочышчы Любенскі Гай. Налічваў 60 курганоў. 2 насыпы ў 1888 даследаваў Е. Р. Раманаў. У адным пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце галавой на З, пры ім быў кругладонны гаршчок; у другім — трупаспаленне на падсыпцы (10 ст.), вогнішча складалася з вуголля, попелу, перапаленых касцей чалавека і жывёл, фрагментаў керамікі; у верхняй частцы насыпаў праслойка попелу, чарапкоў, птушыных касцей. У 1926 тры насыпы даследаваў І. Х. Юшчанка.

Выш. курганоў каля 0,5 м, дыям. каля 15 м. Пахавальны абрад — трупапалажэнне галавой на З. Выяўлены сляды труны або абкладкі нябожчыка з бярвення. Знойдзены бранзалет, гліняны арнаментаваны гаршчок. Рэшткі могільніка знішчаны ў даваенныя гады. Датуецца канцом 10—11 ст.

*Літ.:* 301, 988. *А. А. Макушнікаў.*

**ГО́МЕЛЬСКІ МАНЕ́ТНЫ СКАРБ.** Знойдзены ў Гомелі ў 1822 пры земляных работах: 82 куфіцкія дырхемы 896—943 Саманідаў — манетныя двары аш-Шаш, Самарканд, Андэраба, Балх, Бійяр (?). Ухаваны ў канцы 1-й пал. 10 ст. Захоўваўся ў зборы М. П. Румянцава (Гомель), у 1861 перададзены ў Румянцаўскі музей старажытнасцей (Масква).

*Літ.:* 1550.

**«ГО́МЕЛЬШЧЫНА: АРХЕАЛО́ГІЯ, ГІСТО́РЫЯ, ПО́МНІКІ»,** тэзісы дакладаў гомельскіх абл. навук. канферэнцый па гіст. краязнаўству. Выдаюцца ў Гомелі на рус. мове з 1989. Канферэнцыі праводзяцца ў Гомелі з 1989 *Гомельскім абласным археалагічным цэнтрам*, абл. т-вам аховы помнікаў гісторыі і культуры, Гомельскім абл. краязнаўчым музеем. Прымаюць удзел археолагі, гісторыкі, краязнаўцы Беларусі, Украіны, Расіі. Выйшлі вып. 1—2 (1989—91). Матэрыялы вып. 1 прысвечаны гісторыі Гомельшчыны розных часоў, сярод іх паведамленні пра археал. культуры жал. веку (Л. Д. Побаль, М. І. Лашанкоў, А. І. Драбушэўскі), новыя звесткі пра дзядзінец Гомеля (А. А. Макушнікаў). Асвятляюцца таксама пытанні гісторыі Клецка (В. С. Пазнякоў), Полацка (С. В. Тарасаў), Віцебска (Т. С. Бубенька), Друі і Дзісны (В. Я. Зайцава); матэрыялы пра развіццё рамёстваў (Макушнікаў, А. М. Пісарэнка, Л. У. Калядзінскі), узнікненне і эвалюцыю літоўскай грыўны (Ш. І. Бекцінееў), рэчавыя знаходкі (У. У. Багамольнікаў, У. А. Ліцвінаў). У вып. 2 змешчаны матэрыялы пра генезіс раннемезалітычнага насельніцтва Гомельшчыны (У. П. Ксяндзоў), помнікі каменнага і бронзавага вякоў (І. М. Язэпенка), пра археал. культуры жал. веку (Побаль, К. В. Каспарава, Я. А. Шмідт, Лашанкоў, Драбушэўскі, Г. М. Беліцкая), асаблівасці пахаванняў (Г. В. Штыхаў, Багамольнікаў), фарміраванне тэрытарыяльнай асновы Полацкай зямлі (Г. М. Семянчук), пра даследаванні і знаходкі на тэр. Беларусі, у т. л. гарадах Палесся (У. М. Мілюцін, З. М. Сяргеева, Макушнікаў, І. І. Сінчук, Н. І. Здановіч, А. А. Трусаў, Пазнякоў і інш.). Разгледжаны пытанні лакалізацыі Ізяслаўя Смаленскай зямлі (А. А. Мяцельскі), развіцця тапаструктуры Віцебска ў 11—13 ст. (Калядзінскі), тапаграфіі і планіроўкі слав. сельскіх паселішчаў сярэднявечча ва Усх. Еўропе (Я. Р. Рыер), развіцця жывёлагадоўлі ў Слуцку ў 12—13 ст. (Н. П. Александровіч, Калядзінскі), фальсіфікацыі грашовых сродкаў у канцы 15 ст. (І. Ф. Масько). Падведзены першыя вынікі палявых работ Гомельскага абл. археал. цэнтра (Макушнікаў). Шэраг дакладаў прысвечаны старажытнасцям сумежнай тэр. Чарнігаўшчыны. Ілюстраваны малюнкамі, планамі, схемамі.



**Гомельскі манетны скарб.**

**ГО́РАД,** вялікі населены пункт, жыхары якога заняты пераважна ў прамысловасці, гандлі, сферах абслугоўвання, кіравання, навукі і культуры. Г. ўзніклі ў працэсе паглыблення грамадскага падзелу працы — аддзялення рамёстваў ад земляробства, якое адбылося пры пераходзе ад першабытнаабшчыннага ладу да рабаўладальніцкага (на Усходзе у Стараж. Грэцыі, Італіі) або феадальнага ў большасці краін Еўропы. Гал. рыса феадальнага Г.— канцэнтрацыя рамёстваў і абмену. На Беларусі першыя Г. ўзніклі ў 9—13 ст. і ўяўлялі сабой агароджанае (адсюль назва «горад») умацаванае паселішча. Нярэдка яны ўтвараліся на месцах б. *гарадзішчаў* жал. веку. Многія бел. Г. развіваліся з умацаваных радавых паселішчаў, феад. замкаў, парубежных крэпасцей. Ядром Г. звычайна быў *дзядзінец*, найчасцей размешчаны на ўзвышаным месцы, абкружаны *абарончымі збудаваннямі*. Побач узнікалі *вакольны горад*, вакол якога ўтваралася 2-я лінія ўмацаванняў, і пасады. Непадалёку ад Г. знаходзіўся курганны могільнік (некропаль). Росту Г. спрыяла іх геаграфічнае размяшчэнне — скрыжаванне гандл. шляхоў, блізкасць ракі ці возера, якія выкарыстоўваліся як транспартныя магістралі. У стараж.-рус. летапісах і інш. крыніцах 9—13 ст. на тэр. Беларусі названа 35 Г., што дакладна ідэнтыфікаваны, вывучаны і археал. даследаваны: з 9 ст. Полацк; з 10 ст. Заслаўе, Тураў; з 11 ст. Браслаў, Брэст, Віцебск, Друцк, Копысь, Лагойск, Лукомль, Мінск, Орша, Пінск; з 12 ст. Барысаў, Брагін, Гомель, Гродна, Клецк, Мазыр, Мсціслаў, Навагрудак, Рагачоў, Слуцк, Слаўгарад (Прапойск), Чачэрск; з 13 ст. Ваўкавыск, Здзітаў, Камянец, Капыль, Кобрын, Рэчыца, Слонім, Турыйск (пра кожны гл. адпаведны арт.). Некаторыя Г. ўзніклі раней, чым трапілі на старонкі дакументаў: у 9 ст. існавалі Віцебск, Лукомль, у канцы 10 ст.— Ваўкавыск, Навагрудак, Чачэрск. Паводле археал. даследаванняў устаноўлена існаванне ў канцы 11 ст. Давыд-Гарадка. Да сённяшняга дня застаецца невядомым месцазнаходжанне летапісных Г.: *Галацічаск, Гарадзец, Некалач, Стрэжаў* і інш. У выніку археал. даследаванняў вызначана тапаграфія многіх Г., тыпалогія іх умацаванняў і планіроўкі, храналогія старажытнасцей, атрыманы даныя пра гасп. дзейнасць іх жыхароў, матэрыяльную культуру насельніцтва. У 9—12 ст. у Г. канцэнтраваліся рамеснікі і гандляры, якія сяліліся па-за межамі ўмацаванняў

Развіваліся Г. на аснове радыяльна-кальцавой і радыяльна-веернай сістэм планіроўкі, у 11—13 будаваліся мураваныя храмы, замкавыя вежы-данжоны. Абарончая сістэма спалучала прыродны ландшафт (высокі бераг ракі, абрыў) і штучныя ўмацаванні: земляныя равы і валы, на якіх у 10—12 ст. узводзіліся вастраколы, зрубныя сцены-гародні, умацаваныя драўлянымі вежамі. Вуліцы шыр. 2—5 м масцілі бярвеннем; абапал вуліцы размяшчаліся двары гараджан (кожны пл. каля 200 м²), абгароджаныя парканам. Жытлы, што размяшчаліся ў дварах, квадратных у плане, з рубленымі сценамі даўж. 3—5 м, побач размяшчаліся майстэрня, хлеў (плошчай часцей большы за жытло). У феад. эпоху побач з дзядзінцам размяшчаўся рынак, вакол Г.— пасады. У Г. 12—13 ст. пераважна развіваліся кавальства, рамёствы ювелірнае (выраб падвесак, скроневых кольцаў, бранзалетаў, пярсцёнкаў, пацерак, гузікаў і інш.), шавецкае і кравецкае (абутак, адзенне), касцярэзнае (грабеньчыкі, шахматы, тронкі нажоў), ганчарнае (*кераміка* бытавая), бандарнае. Сярод гараджан была пашырана пісьменнасць, пра што сведчаць *берасцяныя граматы*, надпісы на драўляных і касцяных вырабах. Вяршыняй матэрыяльнай культуры стараж. Г. з'яўляліся манументальныя мураваныя пабудовы (саборы ў Віцебску, Ваўкавыску, Навагрудку, Полацку, Тураве). Адсутнасць значнага тавараабмену паміж Г. і вёскай прымушала гараджан трымаць асабістую гаспадарку. У 15—16 ст. у большасці Г. фарміраваліся 2 цэнтры забудовы: замак феадала і гандл. плошча з крамамі. У Г. з магдэбургскім правам на плошчы ставілі ратушу. Вакольны горад ці пасадскае паселішча называлі месцам, жыхароў — мяшчанамі. З ростам рамяства і гандлю пасады пашырыліся, іх планіроўка станавілася больш упарадкаванай, вуліцы брукаванымі. Сістэма планіроўкі вуліц найчасцей была радыяльная або радыяльна-веерная, фарміраваліся ансамблі гар. цэнтраў. Па перыметры плошчаў і на блізкіх да іх вуліцах жылі рамеснікі і гандляры. У 16—17 ст. большасць Г. была добра ўмацавана і адыгрывала значную ролю ў праводзенні палітыкі буйных феадалаў-магнатаў. У 17—18 ст. павялічылася разнастайнасць тыпаў жылля. З пач. 19 ст. ў Г. пашырылася мураванае жыллёвае і грамадзянскае будаўніцтва. У розныя часы развіццё Г. адбываўся іх хуткі рост або занпад з прычыны войнаў (асабліва ў 2-й пал. 17—1-й пал. 18 ст.) ці перамяшчэння гандл. шляхоў. Працэс урбанізацыі на Беларусі стрымліваўся слабым развіццём прамысловасці, прыгонніцтвам, нацыянальным прыгнётам.

*Літ.:* 119, 360, 1346, 1363.

*Г. В. Штыхаў.*

**ГО́РАН,** 1) печ для награвання перад плаўкай металу. Рабілі з вогнетрывалых матэрыялаў. Паліва — драўняны вугаль. Інтэнсіўнасць гарэння забяспечвалася надзіманнем паветра скуранымі мяхамі з ручным, нажным, а пазней вадзяным прыводам. 2) Ніжняя частка шахтавай плавільнай печы (домны, вагранкі), дзе адбываецца гарэнне паліва і плаўка металу. 3) Некаторыя даследчыкі называюць Г. домніцу (сырадутную печ для металургіі жалеза з балотных і лугавых руд). 4) Тыгельны Г., які выкарыстоўвалі для плаўкі, варкі або награвання металу ў *тыглях*. 5) Г. для абпальвання керамікі (посуду, кафлі, чарапіцы). Рабілі ў зямлі, на паверхню выходзіла толькі скляпенне з загрузачнай адтулінай. Такі цыліндрычны двухкамерны Г. знойдзены ў 1980 у Мінску на р. Няміга ў час будаўнічых работ каля Петрапаўлаўскай царквы (на глыб. 2,7 м). Выкананы з добра ачышчанай чырвонай гліны (выш. 1 м, дыям. 0,9 м, таўшч. сценак 10—12 см), чарэнь для змяншэння цеплааддачы выкладзены з камянёў. Ніжняя камера з'яўлялася топкай, у верхняй захавалася пячная кафля канца 16 ст. Арачная перагародка паміж камерамі мела скразныя адтуліны (прарухі) для паступлення гарачага паветра. Датуецца канцом 16 — пач. 17 ст.



Горан канца 16— пач. 17 ст. Мінск.

*Літ.:* 723, 1102.

*М. Ф. Гурын.*

**ГОРАЦКІ ГІСТО́РЫКА-ЭТНАГРАФІ́ЧНЫ МУЗЕ́Й.** Адкрыты ў 1989 у г. Горкі. У экспазіцыі і фондах захоўваюцца 2023 археал. прадметы (1991): нуклеусы, крамянёвыя пласціны і адшчэпы, наканечнікі стрэл, прылады працы (разцы і скрабкі эпохі неаліту), знойдзеныя на тэр. Горацкага і суседніх з ім раёнаў, шліфаваныя крамянёвыя і свідраваныя каменныя сякеры бронзавага веку; жал. вырабы, фрагменты глінянага ляпнога посуду, зерне культурных раслін і інш. матэрыялы днепра-дзвінскай культуры і 3-й чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. з раскопак гарадзішча Нікадзімава; нажы, ключы, цвікі, спражкі, рыбалоўны кручок, наканечнікі стрэл, абломак шпоры, шыферныя праслііцы, фрагменты шкляных бранзалетаў і глінянага посуду з раскопак гарадзішча Горы; выпадковыя знаходкі розных часоў. Нумізматычныя матэрыялы прадстаўлены манетамі Расіі 18—20 ст.

*А. А. Седзін.*

**ГО́РВАЛЬ,** археал. помнікі каля в. Горваль Рэчыцкага р-на.

С т а я н к а эпохі неаліту. У вёсцы, каля могілак. Выявіў і абследаваў у 1977 У. П. Ксяндзоў. Культурны пласт на большай частцы помніка разбураны ветравой эрозіяй. На пл. 800 м² знойдзены крамянёвыя скрабкі, наканечнікі стрэл, нажападобныя пласціны, адшчэпы, фрагменты грабеньчата-ямкавай керамікі. Датуецца 4—2-м тысячагоддзямі да н. э.

Г а р а д з і ш ч а мілаградскай, зарубінецкай культур і эпохі Кіеўскай Русі. За 1,5 км на Пд ад вёскі. Пляцоўка трохвугольная, пл. 600 м². З боку поля ўмацавана валам выш. 1,5 м, даўж. 25 м і ровам глыб. 5 м. Даследавалі ў 1958 В. М. Мельнікоўская, у 1976 Г. В. Штыхаў. Культурны пласт 0,6 м. Знойдзены фрагменты ляпнога посуду, ганчарнай керамікі 11—13 ст. (у верхняй частцы).

К у р г а н н ы  м о г і л ь н і к. За 300 м на У ад вёскі, на правым беразе р. Бярэзіна. 30 насыпаў выш. 0,5—2 м, дыям. 9—12 м. Абследавалі ў 1958 Мельнікоўская, у 1976 Штыхаў.

*Літ.:* 1353.

*У. П. Ксяндзоў.*

**ГО́РВАЛЬСКІ ЗА́МАК.** Існаваў у 16—18 ст. на ўсх. ускраіне в. Горваль Рэчыцкага р-на, на правым беразе р. Бярэзіна. Замчышча са слядамі земляных бастыёнаў з усх. боку мае блізкую да чатырохвугольнай форму (40×20 м). З Пн і Пд абаронена прыроднымі ярамі, з боку поля — штучнымі ровам і валам, з У ад Бярэзіны — высокім (да 13 м) схілам берага. Даследаваў у 1981 М. А. Ткачоў. Культурны пласт 0,2—0,3 м. Выяўлены рэдкія абломкі керамікі 16—18 ст.

Як мястэчка Горваль згадваецца ў 1503 у мірным дагаворы паміж Маскоўскай дзяржавай і ВКЛ. У 1535 мястэчка разбурана рус. войскам. У 16 ст. мястэчкам і замкам валодалі дзяржаўца Б. І. Шалуха (з 1528), каралева Бона, кн. В. Сангушка. У 17 ст. замак — уладанне Віленскай капітулы (савета пры епіскапе). Паводле іканаграфічных матэрыялаў, Г. з. у сярэдзіне 16 ст. быў бастыённым, але былі і драўляныя ўмацаванні. У 1648 пад Горвалем укр. казакі разбілі войска стражніка ВКЛ кн. Мірскага і аваладалі замкам, які з'яўляўся важным пунктам кантролю за пераправай це-

раз Бярэзіну і водным шляхам да Дняпра. У лістападзе 1654 казакі ўкр. гетмана І. Залатарэнкі былі вымушаны браць Г. з. штурмам, у выніку чаго «замок Горволь позжено». Пазней Г. з. аднаўлены і праіснаваў да Паўн. вайны 1700—21, у час якой быў канчаткова знішчаны.

*Літ.:* 258, 836, 904, 990, 1190.

*М. А. Ткачоў.*

**ГО́РКІ,** археал. помнікі ў г. Горкі Магілёўскай вобл.

Г а р а д з і ш ч а. Каля р. Капылкі, у пачатку вул. А. Матросава. Памер 20×18 м, з боку поля ўмацавана валам выш. 2 м, за якім прасочваецца аплыўшы роў. Культурны пласт 0,2—0,4 м. На схілах сабрана кераміка 13—14 ст.

С е л і ш ч а. За 1 км на Пд ад студэнцкага гарадка Бел. с.-г. акадэміі, на мысе пры ўпадзенні безназоўнага ручая ў р. Паросіца. Выявіў А. Храмчанкаў, абследаваў у 1990 А. А. Мяцельскі. Памер 100×100 м. Культурны пласт 0,5 м. Знойдзены шыферныя прасліцы, біпірамідальная сердалікавая пацерка, кераміка 12—14 ст.

*А. А. Мяцельскі.*

**ГО́РКІ,** стаянкі позняга *мезаліту* і курганны могільнік часоў Кіеўскай Русі каля в. Горкі Чэрыкаўскага р-на.

С т а я н к а - 1. За 1 км на ПдЗ ад вёскі, на першай надпоймавай тэрасе правага берага р. Сож, на выш. 6—7 м над узроўнем вады, ва ўрочышчы Угароўка. Адкрыў у 1928 К. М. Палікарповіч, даследаваў 1688 м² у 1974—80 В. Ф. Капыцін.

У культурным пласце на глыб. 0,2—0,5 м знойдзена больш за 55 тыс. прадметаў, сярод якіх больш за 1,4 тыс. нуклеусаў, больш за 1 тыс. крамянёвых прылад працы (скрабкі круглаватыя, канцавыя з прамым пукатым ці скошаным рабочым краем, двайныя праколкі сярэдзінныя і вуглавыя, вырабы з выемкай, клінападобныя сякеры і розныя сякеркі), прылады палявання (наканечнікі стрэл «свідэрскага» тыпу, вастрыі, нажападобныя пласціны). На месцы паселішча, магчыма, існавала майстэрня па апрацоўцы крэменю, пра што сведчаць шматлікія дробныя асколкі, луска, адшчэпы і пласціны.

Датуецца 6—5-м тысячагоддзямі да н. э.

С т а я н к а - 2. За 200 м на ПдУ ад стаянкі-1, на левым беразе ручая Крынічны, што ўпадае ў старыцу р. Сож. Выявіў у 1928 Палікарповіч, даследавалі ў 1977—78 В. Л. Ліпніцкая, у 1972 і 1984 Капыцін (334 м²).

У культурным пласце на глыб. 0,6 м знойдзена больш за 10 тыс. прадметаў з цёмна-шэрага мелавога крэменю, паклады якога знаходзяцца на беразе старыцы р. Сож: нуклеусы, тронкавыя наканечнікі стрэл, вастрыі, пласцінкі з прытупленым рэтушшу краем, прылады сякучых форм, вырабы з выемкай, скрабкі канцавыя, двайныя і паўкруглыя разцы, бакавыя, вуглавыя і сярэдзінныя.

Датуецца 6—5-м тысячагоддзямі да н. э.

К у р г а н н ы м о г і л ь н і к. На паўн. ускраіне стаянкі-1. 9 насыпаў выш. 0,5—1,8 м, дыям. 8—14 м. Адкрыў у 1928 Палікарповіч, абследаваў у 1972 Капыцін.

*Літ.:* 572, 574, 575, 683, 921.

*В. Ф. Капыцін.*

**ГО́РСКІ КРАЯЗНА́ЎЧЫ МУЗЕ́Й.** Адкрыты ў 1986 у сярэдняй школе в. Горы Горацкага р-на на грамадскіх асновах, з 1987 — народны. Мае каля 200 археал. прадметаў і нумізматычную калекцыю (1991).



Скроневае кальца канца 10— пач. 11 ст. з гарадзішча **Горы.**

У экспазіцыі матэрыялы з калекцыі настаўніка А. С. Малярова і археал. раскопак помнікаў жал. веку, перыяду 6—8 ст. і ранняга феадалізму, у т. л. з гарадзішчаў *Нікадзімава* (жал. вырабы, фрагменты глінянага ляпнога посуду, зерне культурных раслін), *Горы* (наканечнікі коп'яў, шпора, сашнікі, нажы, сякеры, цвікі, замкі і ключы, шыферныя прасліцы, касцяныя вырабы, фрагменты ганчарных вырабаў) і інш. Захоўваюцца выпадковыя знаходкі з наваколля вёскі. Нумізматычныя матэрыялы прадстаўлены манетамі Расіі 18—20 ст.

*А. А. Седзін.*

**ГО́РЫ,** комплекс археал. помнікаў каля в. Горы Горацкага р-на.

Г а р а д з і ш ч а *банцараўскай культуры* і ранняга феадалізму. За 300 м на ПнЗ ад вёскі, каля сутокаў рэк Карчаваха і Быстрая, на мысе выш. 10 м над іх поймай. Мясц. назва Курган. Пляцоўка авальная, памер 180×70 м. У цэнтр. яе частцы круглая ў плане пляцоўка выш. 1,5 м, дыям. 8 м. Выявіў у 1936 А. Дз. Каваленя, даследавалі ў 1975 М. А. Ткачоў, у 1978 В. І. Шадыра, у 1982—83 Ш. І. Бекцінееў. Культурны пласт 1,2—1,5 м, складаецца з 2 слаёў, адзін з якіх падзяляецца на 3 гарызонты.

Знойдзены фрагменты зерняцёркі, ляпнога і ганчарнага посуду, тачыльныя брускі, шыферныя прасліцы, жал. цвікі, нажы (1 скандынаўскі), шпоры, ключы, падкоўкі, наканечнікі стрэл і рагаціны, сякера, крэсіва, іголкі, прабоі, свярдзёлак, шпілька, спражка, фрагменты цугляў і касы-гарбушы, медныя двухбаковы крыжык і скроневыя кольцы, шкляныя бранзалеты, шкляныя пацеркі (з іх 8 візантыйскіх), касцяныя праколкі, фрагмент аздаблення тронкаў нажа, падвеска, косці свойскіх і дзікіх жывёл.

З а м ч ы ш ч а. На ПдУ ад гарадзішча. Мясц. назва Вал. Даўж. 214 м, шыр. 110—160 м. Умацавана валамі выш. 3 м, шыр. 8 м і равамі шыр. каля 10 м, глыб. 3 м. Выявіў у 1936 Каваленя, абследавалі ў 1975 Ткачоў, у 1982 Бекцінееў. На пляцоўцы, дзе былі вежы, выяўлена кераміка і дахоўка 16—18 ст.

П а с а д. На Пд ад замчышча. Пляцоўка памерам 190×140—160 м з Пд умацавана валам даўж. каля 220 м, выш. 4 м. Абследаваў у 1982 Бекцінееў. Культурны пласт 0,6—0,8 м. Знойдзена ганчарная кераміка 18 ст.

*Літ.:* 111, 112. *Ш. І. Бекцінееў.*

**ГО́ТЫ** (лац. Gothi, Gothones, Gutones, герм. gutans, gytôs), адно з усх.-германскіх плямён, якое ў пачатку нашай эры перасялілася з Скандынавіі на паўд. узбярэжжа Балтыйскага мора. У сярэдзіне 1 ст. н. э. ў ніжнім цячэнні Віслы асімілявалі мясц. насельніцтва, у выніку чаго ўтварылася *вельбарская культура.* У апошняй чвэрці 2 ст. н. э. пачалі актыўную экспансію на ПдУ і ў 3 ст. дасягнулі Паўн. Прычарнамор'я. У саюзе з інш. плямёнамі Г. неаднойчы ўрываліся ў межы Рымскай імперыі, захапілі Дакію. Падзяляліся на вестготаў (тэр. Малдовы) і остготаў (тэр. Паўн. Прычарнамор'я на У ад Днястра). У 375 саюз плямён Г. на чале з остгоцкім канунгам Германарыхам разгромлены гунамі, пасля чаго большая частка остготаў вымушана была пакінуць Паўн. Прычарнамор'е. На тэр. Беларусі выяўлены могільнікі вельбарскай культуры, пакінутыя Г. і роднаснымі ім гепідамі каля в. Вялічкавічы (Камянецкі р-н), *Дружба* (Брэсцкі р-н; гл. таксама *Брэсцкі бескурганны могільнік*).

*Літ.:* 451, 636, 797.

*А. А. Егарэйчанка.*

**ГРАБЕ́НЬЧАТА-НАКО́ЛЬЧАТАЙ КЕРА́МІКІ КУЛЬТУ́РА,** гл. *Днепра-данецкая культура.*

**ГРАБЕ́НЬЧЫК,** прылада для арнаментавання керамічнага посуду. Прадаўгаватая пласціна з нарэзанымі на вузкай грані зубчыкамі рознай шырыні і глыбіні. У археал. знаходках вядома з 14—15 ст. Г. наносілі 3-, 5-радковы прамы ці хвалісты арнамент, камбінацыі з наколаў. У познім сярэднявеччы такая традыцыя ўпрыгожвання посуду ха-

рактэрна для ганчароў Гродзеншчыны. Касцяны Г. знойдзены на Старым замку ў Гродне.

*Літ.:* 206.

**ГРАЗІВЕ́Ц,** курганны могільнік 11—12 ст. каля былой в. Гразівец Аршанскага р-на (цяпер у межах г. Орша). Гл. ў арт. *Аршанскія курганныя могільнікі.*

**ГРАН** (англ. grain, ням. Grän, італьян. grano зерне), адзінка вымярэння вагі манет, неаднолькавая ў розныя часы ў розных краінах. Першапачаткова 1 Г. адпавядаў масе 1 зерня пшаніцы. У стараж. Месапатаміі каля 6 ст. да н. э. вагавая адзінка шэкель адпавядала масе 180 зярнят (каля 8,406 г). У Англіі Г. быў роўны 0,0455 г, з 1526 — 0,0648 г, у Нідэрландах — 0,0534 г, у Германіі з 1524—0,812 г; венскі Г. з 1766 — каля 0,0582 г. У 15 ст. ў Іспаніі замест зярнят выкарыстоўвалі манетныя бронзавыя гіркі, вага якіх адпавядала рознай колькасці зярнят.

**ГРАФІ́ЦІ** (італьян. graffiti мн. лік ад graffito літар. надрапаны), старажытныя надпісы, зробленыя вострымі прадметамі на сценах будынкаў і розных рэчах. Г. 11 ст. знойдзены ў Сафійскім саборы ў Полацку — на вял. плоскім камені ў падмурку выдрапаны імёны людзей, якія будавалі сабор: «Давидъ, Тоума, Микоула», а таксама «Петъръ Воришъко» і слова «Към҃ьсь». Г., выяўлены на прасліцах і амфарах 12 ст., маюць звесткі пра імёны, бытавую лексіку: «Бабино праслень», «марино» (Віцебск), «Настасино праслен», «ополче вино» (Пінск), «Олеквсн» (Навагрудак), «помози» (Мінск), «къняжінъ» (Друцк), «моих» (Полацк). У надпісе на сцяне Кіеўскага сабора ў Кіеве («Воинегъ писалъ Журяговиць полоцянинъ») вызначана месца жыхарства яе аўтара — Полацк. На сцяне царквы Звеставання ў Віцебску выдрапаны малюнак воіна і надпіс 13 ст. «м(еся)ца июля...». У царкве Спаса-Ефрасіннеўскага манастыра ў Полацку Г. знойдзены на сценах, слупах, у алтарнай частцы храма. Большасць надпісаў памінальныя, напр. 13 ст.: «месяца августа во 3 день прьставися Козуминая письца, иконьного» (гаворка ідзе пра смерць жонкі іканапісца Кузьмы, які, магчыма, працаваў у храме ці кіраваў арцеллю мастакоў). Косці з надпісамі і малюнкамі выяўлены на гарадзішчы *Маскавічы*, у Мінску, Полацку і інш. Г. дапамагаюць вывучэнню старАж. пісьменнасці, мовы, рэлігіі.

*Літ.:* 177, 343, 466, 848, 977.

*Г. В. Штыхаў.*

**ГРАШО́ВА-ВАГАВА́Я СІСТЭ́МА,** форма існавання *грашовай сістэмы* на ранніх этапах з'яўлення і эвалюцыі грашовага абарачэння, калі існавала непарыўная сувязь паміж адзінкамі вагі (масы) і грашовымі адзінкамі. Для Г.-в.с. характэрна выкарыстанне адзінай сістэмы лічэння для грошай і вагаў. У выніку *псавання манет* адасобілася грашовая сістэма, якая мела колькасць манетнага металу неабавязкова роўную або кратную вагавой адзінцы. Маса манет звязвалася і надалей праз *стапу* манетную з яе вагавой адзінкай, але ўжо не адпавядала яе фракцыям. Адзінкі вагі далі назвы грашовым адзінкам: драхма, марка, фунт, ліўр і інш. У ВКЛ, Каралеўстве Польскім і інш. дзяржавах зафіксавана выкарыстанне *дуката*, маса і проба якога былі стабільныя, у якасці адзінкі масы золата. З 1926 у СССР устаноўлена прамая адпаведнасць паміж грамам (фракцыяй адзінкі масы сістэмы СІ) і капейкай (фракцыяй грашовай адзінкі СССР) для манет наміналам 1—5 капеек, але гэтая залежнасць не ўплывае на грашовую адзінку і носіць выключна вытворчы характар, таму не з'яўляецца элементам Г.-в. с.

*Літ.:* 1532, 1542, 1620, 1640, 1732.

*І. І. Сінчук.*

**ГРАШО́ВАЕ АБАРАЧЭ́ННЕ,** рух грошай у наяўнай і безнаяўнай формах у час забеспячэння аплаты тавараў і паслуг. Г. а. краіны забяспечваецца грашовай масай, велічыня якой залежыць ад хуткасці абарачэння грошай і агульнага кошту тавараў і паслуг гэтай краіны. Адным з рэгулятараў Г. а. з'яўляюцца скарбы.

**ГРАШО́ВА-ЛІ́КАВАЯ СІСТЭ́МА,** прыстасаваная для патрэб грашовага абарачэння сістэма іерархічных лікавых адзінак. Вылучаюць простыя і складаныя Г.-л. с. У простых (прамых) сістэмах грашовая адзінка вышэйшага разраду мае такую ж колькасць (або ў ступені) адзінак ніжэйшага, як і ніжэйшы — больш ніжэйшага. Напр., у 2-й пал. 15—16 ст. ў ВКЛ выкарыстоўвалася дзесяцічная Г.-л. с. Рубель утрымліваў 100 грошаў, грош — 10 пенязяў (1:100:1000). У складаных (камбінаваных) сістэмах адзінка вышэйшага разраду не мела такую ж колькасць адзінак ніжэйшага, ніжэйшая — больш нізкага. Напр., у ВКЛ ужывалася «копавая» Г.-л. с.: капа = 60 грошам, грош = 10 пенязям (1:60:600); у Каралеўстве Польскім у 16 — пач. 17 ст. існавала сістэма: злоты = 30 грошам, грош = 18 дэнарыям (1:30:540), у 1660-х г. злоты=30 грошам, грош=3 солідам (1:30:90). Існаванне складаных Г.-л. с. тлумачыцца ўплывам суадносін паміж *наміналамі* на рэаліі *лікавай сістэмы.* У ВКЛ, напр., у 2-й пал. 15—16 ст. існавалі грош і пенязь з закладзенымі *эмітэнтамі* суадносінамі 1:10, што давала магчымасць лічыць грошы на сотні (рублі) або на копы (60 грошаў). Не ўсе адзінкі Г.-л. с. маюць адпаведнікі сярод наміналаў і наадварот. Толькі з 18 ст. ў Еўропе манетныя сістэмы маюць у выглядзе рэальных манет адзінкі Г.-л. с. У 20 ст. амаль усюды адбыўся пераход да манетных сістэм па дзесяцічным прынцыпе, таму адбылася адпаведная нівеліроўка нацыянальных Г.-л. с.

*Літ.:* 1545, 1558, 1585, 1615, 1669, 1751.

*І. І. Сінчук.*



**Графіці** на прасліцах 12—13 ст. з гарадзішча Маскавічы Браслаўскага р-на.

**ГРАШО́ВАЯ РЭФО́РМА,** заканадаўчыя мерапрыемствы эмітэнта, якія вядуць да поўнай або частковай змены *грашовай сістэмы.* У дапаперова-грашовы перыяд Г. р. характарызуюцца змяненнем манетнай *стапы* або *пробы* манеты (звычайна ў бок памяншэння ўтрымання чыстага металу), паступовай ці раптоўнай заменай у грашовым абарачэнні старых манет новымі з фіскальнымі мэтамі (гл. *Грашовыя рэформы Зыгмунта III Вазы*), маскіруючы іх утварэннем новых наміналаў, грашовых адзінак, змяненнем суадносін

паміж наміналамі або сістэмы грашовага ліку (гл. *Грашовая рэформа Аляксея Міхайлавіча, Грашовая рэформа Пятра I, Грашовыя рэформы Станіслава Аўгуста Панятоўскага, Грашовыя рэформы Стэфана Баторыя*), уніфікацыяй, аздараўленнем грашовага абарачэння, умацаваннем грашовай сістэмы. З увядзеннем папяровага грашовага абарачэння Г. р. замяняла асн. грашовы метал, на які апіралася грашовая адзінка (гл. *Грашовая рэформа Вітэ, Грашовая рэформа Канкрына, Біметалізм, Монаметалізм*), або сістэму эмісіі і забеспячэння банкнот, металічнага ўтрымання грашовай адзінкі, курсу ў замежнай валюце, назвы (гл. *Грашовыя рэформы ў СССР*).

*І. І. Сінчук.*

**ГРАШОВАЯ РЭФОРМА АЛЯКСЕЯ МІХАЙЛАВІЧА.** Праведзена ў Маскоўскай дзяржаве ў 1654—63 з мэтай мадэрнізацыі грашовай сістэмы і прыстасаваннем яе да развітой сістэмы наміналаў Зах. Еўропы, што было выклікана ўключэннем левабярэжнай Украіны ў склад Маскоўскай дзяржавы і баявымі дзеяннямі на землях Беларусі, а таксама атрыманнем дадатковых даходаў.

Планавалася ўвесці сярэбраны *рубель* у 100 *капеек*, які паводле *лігатурнай масы* і *пробы* адпавядаў *талеру* і перабіваўся з талерный манеты, сярэбраны *паўпалціннік*, які адпавядаў $^1/_4$ талера ў дадатках да традыцыйных сярэбраных капеек з дроту. З медзі павінны былі выпускацца непаўнавартасныя рубель, *палціна*, паўпалціна, *грыўня*, *алтын* і *грашовік*. Рэальная вартасць новых сярэбраных манет складала $^2/_3$ ад намінальнай, кошт медзі ў новых манетах складаў $^1/_{70}$—$^1/_{20}$ намінальнай вартасці ў цэнах пачатку — сярэдзіны 1650-х г. Гэтыя манеты павінен быў выпускаць Новы Маскоўскі «Англійскі» манетны двор (гл. *Манетныя двары Расійскай дзяржавы*). Вядомы сярэбраныя рублі і паўпалціннікі, медныя палціннікі, алтыны і грашовікі. З-за дрэннага асваення тэхналогіі вырабу буйных «рэгулярных» манет увосень 1655 сталі выпускаць *«яфімкі з прызнакам»* і медныя капейкі з дроту, рэальная вартасць якіх з улікам вытворчых выдаткаў складала ў цэнах канца 1650 — пач. 1660-х г. $^1/_{35}$ намінальнай. Контрамаркіраваныя (гл. *Контрамаркіраванне манет*) у 1655 талеры (курсавая вартасць 64 кап.) прызначаліся выключна для далучаных тэрыторый. На Беларусі і Украіне медныя капейкі трапляліся разам з сярэбранымі манетамі, у еўрап. частцы Маскоўскай дзяржавы з красавіка 1659 у грашовым абарачэнні афіцыйна былі толькі дробныя медныя манеты з дроту — у першую чаргу капейкі, а таксама алтыны, грашовікі. З 1656 рэформа набыла выключна фіскальны характар. Да сярэдзіны 1663 *лаж* на медную капейку склаў 1400—1600 %, пасля паўстання 1662 у Маскве («Медны бунт») была аднаўлена старая грашовая сістэма з сярэбранымі капейкамі з дроту пробы талера ў 0,44—0,46 г лігатурнай масы. Медныя капейкі былі выкуплены дзяржавай за 1 % намінальнай вартасці.

*Літ.:* 1512, 1515, 1517, 1554, 1556, 1557, 1558, 1559, 1590, 1604. *І. І. Сінчук.*

**ГРАШОВАЯ РЭФОРМА ВІТЭ.** Праведзена ў 1895—97 па ініцыятыве міністра фінансаў С. Ю. Вітэ з мэтай упарадкавання грашовага абарачэння і ўмацавання грашовай сістэмы Расіі.

У 1895 у краіне ўведзены залаты монаметалізм. Паводле ўказа ад 3.1. 1897 пачаўся выпуск новых наміналаў у 7 руб. 50 кап. і 15 руб. з масай і пробай былых у абарачэнні манет у 5 і 10 руб. У выніку адбылася дэвальвацыя рубля на $^1/_3$. Умоўнай грашовай адзінкай стаў рубель з наяўнасцю золата ў 0,774235 г. У 1897 уведзены свабодны абмен крэдытных білетаў на золата. Указы 1897 і 1898 увялі выраб новых манет у 5 і 10 руб. з залатым парытэтам на $^1/_3$ меншым за ранейшы. Залаты монаметалізм існаваў да пач. 1-й сусветнай вайны.

*Літ.:* 1521, 1531 а, 1553.

**ГРАШОВАЯ РЭФОРМА КАНКРЫНА.** Праведзена ў 1839—43 па ініцыятыве міністра фінансаў Я. Ф. Канкрына для пераадолення крызісу грашовай сістэмы Расіі, які быў выкліканы празмерным выпускам асігнацый (папяровых грашовых знакаў, забяспечаных меднай манетай).

Пасля Айчыннай вайны 1812 рынак перапоўніўся асігнацыямі, выпушчанымі расійскім урадам для пакрыцця ваенных выдаткаў, і фальшывымі, вырабленымі паводле загаду Напалеона. У выніку папяровыя і медныя грошы абясцэніліся, іх курс знізіўся ў адносінах да сярэбранай манеты. У 1839 уведзены сярэбраны монаметалізм, які паклаў пачатак абарачэнню сярэбранага рубля, роўнага 3 руб. 50 кап. асігнацыямі. На працягу 1843—49 асігнацыі здымаліся з абарачэння і абменьваліся на крэдытныя білеты, якія ў сваю чаргу разменьваліся на сярэбраную і залатую манеты. У 1839—48 выпускаліся манеты ў $^1/_4$, $^1/_2$, 1,2 і 3 кап. па стапе 16 руб. з пуда медзі, у абазначэнне наміналаў якіх было ўведзена слова «серабром». Медныя грошы сталі разменным сродкам у адносінах да сярэбранага рубля. Рэформа ліквідавала дэфіцыт дзярж. бюджэту, умацавала фінансы краіны. Крымская вайна 1853—56 паслабіла вынікі рэформы.

*Літ.:* 1536, 1560, 1615. *В. С. Касмылёў.*



Медныя капейкі 1844, выпушчаныя паводле **грашовай рэформы Канкрына.**

**ГРАШОВАЯ РЭФОРМА ПЯТРА I.** Праведзена ў 1700—04. Ёй папярэднічалі падрыхтоўчыя мерапрыемствы: стварэнне манетных двароў, зняшчэнне на сярэбраных капейках дат эмісіі (1696), памяншэнне іх масы да 0,28 г (1698) і інш.

11.3.1700 выйшаў указ аб выпуску ў абарачэнне медных *паўпалушак* ($^1/_8$ капейкі), *палушак* і *дзенег*. У 1701 з'явіліся сярэбраныя 10 дзенег (паўгрыўня), *грыўня*, паўпалціннік (*чацвяртак*) і *палціна*, залатыя чырвонец і двайны *чырвонец* (у 1718 — двухрублёвік). У 1704 упершыню выпушчаны медная *капейка* і сярэбраны *рубель*, якія і склалі аснову новай манетнай сістэмы. Капейка ператварылася ў асн. лікавую адзінку, пазней да яе далучаны грыўня, чацвяртак, палціна. Да 1718 працягваўся выраб сярэбраных драцяных капеек традыцыйнага выгляду. Рэформа ўпершыню ў сусветнай практыцы ўвяла дзесятковую манетную сістэму.

*Літ.:* 1615, 1617, 1620. *В. С. Касмылёў.*

**ГРАШОВАЯ РЭФОРМА ЯНА II КАЗІМІРА ВАЗЫ.** Праведзена ў Рэчы Паспалітай у 1650—60-я г. для паляпшэння фінансавага стану дзяржавы за кошт ускоснага падатку ў выглядзе эмісіі непаўнавартасных манет з прымусовым курсам, якія абарачаліся на грашовым рынку амаль стагоддзе (гл. таксама *Грашовыя рэформы Станіслава Аўгуста Панятоўскага*).

У пач. праўлення Яна Казіміра зроблена спроба змены грашовай сістэмы. Канстытуцыя 1650 устанавіла адзіную *лотавую пробу* XIV (875 *праміле*) для *талераў, ортаў, шасцi грошаў, трох грошаў* і пробу VII (437,5 праміле) для двоякаў і *грошаў*. Утрыманне чыстага манетнага металу ў дукаце, талеры і орце захавалася, у астатніх наміналах паменшылася на 8—11 %, замест соліда з нізкапробнага серабра ўведзены з медзі з курсам 4 соліды на 1 грош (маса соліда 2,62 г), замест паўтара

гроша ўводзіўся двояк. У 1652 зноў з'яўляюцца паўтара гроша і солід нізкапробнага серабра, зніжаецца проба шасці грошаў да VI (375 праміле), гроша да IV (250 праміле), зніжэнне *рэальнай вартасці* драбнейшых манет маскіравалася павышэннем іх лігатурнай масы. У 1656 зніжана проба орта да XI (687 праміле), шасці грошаў да VII, утрыманне серабра ў іх паменшана на 11,2—11,6 %. У 1658 чарговае паніжэнне пробы прывяло да зніжэння рэальнай вартасці ортаў і шастакоў яшчэ на 9 % (за 8 гадоў — на 20 %), трох грошаў, паўтара гроша і грошаў на 19 % (25 %). Пры невял. эмісіях паніжанае ўтрыманне серабра ў манетах Рэчы Паспалітай не насіла крызісных рыс. У 1659 з мэтай паляпшэння фінансавага стану дзяржавы за кошт даходаў манетных двароў у грашовае абарачэнне ўпершыню ўведзены медныя соліды (разліковая маса 1,34 г, фактычная 1,30 г), якія ішлі па курсу 3 соліды за 1 грош. У адпаведнасці з кантрактамі арандатар манетных двароў Ціт Лівій Бараціні выпусціў (1659—61) медных солідаў на 1 млн. злотых для Каралеўства Польскага і ВКЛ на Уяздаўскім і Кракаўскім (часткова) манетных дварах *(бараціңкі)*. У 1663 пад націскам вайсковых канфедэрацый, якія патрабавалі вярнуць запазычанасць дзяржавы войску, прынята рашэнне аб новай эмісіі медная манеты на манетных дварах Аліву (1663), Вільні (1664—66), Брэста і Коўна (1665—66), Мальбарка (1666), Уяздава (1663—65). Паводле зпачасовых кантрактаў толькі солідаў ВКЛ трэба было выбіць на суму 22 556 366 злотых. Але разам з солідамі (7 690 822) Каралеўства Польскага атрымалася каля 1,8 млрд. манет, што выклікала інфляцыйныя працэсы ў грашовым абарачэнні. У 1665 адначасова прыняты праект вытворчасці непаўнавартаснай сярэбранай манеты наміналам у 1 злоты (30 грошаў, проба VIII, маса 6,73 г) рэальным коштам у 65 % ад намінальнай вартасці, у дакументах названай орт злотавы. Выкананне кантракту на суму 9 млн. злотых забяспечылі манетныя двары Львова (1663), Быдгашча і Кракава (1663—66), арандаваныя А. Тынфам, па прозвішчы якога новая манета атрымала назву *тымф*. Пад націскам грамадскасці каралеўскім указам ад 8.12.1666 усе манетныя двары абедзвюх дзяржаў былі закрыты. Уведзеныя грашовай рэформай манеты абарачаліся да сярэдзіны 18 ст.

*Літ.:* 1585, 1672а, 1679, 1680, 1709, 1725, 1734, 1747 а, 1750, 1754а.

*І. І. Сінчук.*

**ГРАШО́ВАЯ СІСТЭ́МА,** у нумізматыцы структурнае цэлае асобных элементаў манетнай сістэмы: грашовай адзінкі, набору ***наміналаў*** і сістэм грашовага ліку, вагавой колькасці грашовага металу ў грашовай адзінцы (маштаб цэн), асн. грашовых матэрыялаў (гл. *Монаметалізм, Біметалізм*) і дапаможных грашовых металаў. З развіццём папяровага *грашовага абарачэння* Г. с. дапоўнілася новымі відамі грошай (разменныя і неразменныя крэдытныя папяровыя грошы, манеты з высакародных металаў, разменныя манеты) і парадкам эмісіі, абарачэння і выключэння грошай з абароту. З 1930-х г. пануе сістэма неразменных крэдытных грошай, калі грашовая адзінка не мае вагавой колькасці грашовага металу і ацэньваецца па курсу на іншаземную валюту, па індэксах цэн на тавары ў краіне. Г. с. ствараецца і мяняецца *грашовай рэформай.*

**ГРАШО́ВЫЯ РЭФО́РМЫ ЗЫГМУНТА III ВА́ЗЫ.** Праведзены ў Рэчы Паспалітай у 1-й пал. 1600-х г. у сувязі з імклівым агульнаеўрап. працэсам *псавання манет*.

Паводле пастановы Скарбовай камісіі 1604 у сувязі з памяншэннем *лігатурнай масы* было паніжана ўтрыманне серабра ў *шасці грошах* на 8,5 %, у трояку на 8,4 %, у *грошы* на 16,5 %, у солідзе на 55,4 % (у апошнім аднačасова зніжана проба на 4,4 %). У 1608 абвешчаны выпуск новай манеты — *орта* (чвэрць *талера*, 16 грошаў) у 6,69 г лігатурнай масы (*лотавая проба* XIV) на Гданьскім манетным двары (у 1615 утрыманне серабра ў ім зніжана на 6,8 %, маса паменшана на 3,3 %, проба — на 3,5 %). Паводле пастановы Скарбовай камісіі 1614 уведзены новы намінал — паўтараграшовік, які пры лігатурнай масе ў 1,58 г павінен быў мець лотавую пробу VII $^1/_2$, што па ўтрыманні серабра на грашовую адзінку было менш, чым у грошы на 13,7 %, а ў трояку на 21,6 %. Пастановай Скарбовай камісіі 1616 уводзіўся каронны орт масай 6,43 г, лотавая проба XIII, які ў параўнанні з гданьскім меў серабра на 8 %, масу на 4,4 % і пробу на 3, 8% меней. Памяншалася ўтрыманне серабра ў шастаках і трояках на 17,2 % (лігатурная маса меншылася на 14 %, проба на 3,8 %), у 1619 у паўтараках на 32,3 % (маса на 22 %, проба на 13,3 %), у 1621 у орце на 5,1 % (лігатурная маса павысілася на 12,1 %, проба панізілася на 15,4 %, орту надавалася намінальная вартасць у 18 грошаў). Паводле пастановы Скарбовай камісіі 1623 колькасць серабра ў ортах засталася ранейшай, паменшылася ў шастаках на 41,4 %, трояках на 57,6 %, паўтараках на 10 %, грошах на 48,5 %, солідах на 7,7 %, павялічылася лігатурная маса шастакоў і траякоў на 5 %, паменшылася паўтаракоў на 2,4 %, грошаў на 33,9 %, проба панізілася шастакоў і траякоў на 44,2 %, паўтаракоў на 7,6 %, грошаў на 21,7 %, солідаў на 27,3 %. У 1627 утрыманне серабра ў талеры павысілася на 3,7 % у сувязі з павышэннем пробы да XIV лотаў і аднačасова спынялася вытворчасць наміналаў, меншых за талер. Да 1650 эмісія манет Рэчы Паспалітай абмяжоўвалася талерамі, паўталерамі і залатымі манетамі, што прывяло да значнага недахопу разменнай манеты.

*Літ.:* 1709, 1735, 1749. *І. І. Сінчук.*

**ГРАШО́ВЫЯ РЭФО́РМЫ СТАНІСЛА́ВА А́ЎГУСТА ПАНЯТО́ЎСКАГА.** Пачаліся паводле канстытуцыі Варшаўскага канвакацыйнага сейма ад 23.6.1764. Праводзіліся з мэтай аздараўлення грашовага абарачэння Рэчы Паспалітай, спынення адтоку сярэбранай *манеты добрай* Рэчы Паспалітай у Прускія землі і прытоку агульнадзярж. манет Прускага каралеўства, бітых па ардынацыі 1764, і атрымання прыбытку на розніцы абменнага курса новых і старых манет.

Паводле ардынацыі ад 10.2.1766 мянялася сістэма *грашовага ліку:* уводзіўся *талер* у 8 *злотых*, злоты ў 4 сярэбраныя грошы або ў 30 медных (1:4=1:30). *Грашовая сістэма* абслугоўвалася развітым наборам ***наміналаў***: залаты *дукат*, сярэбраныя талер, паўталер, васьміграшовік (гл. *Карончык*), чатырохграшовік, двухграшовік, медныя *трояк*, грош, ***паўгрош*** і ***солід*** ($^1/_3$ гроша), зніклі архаічныя *орт (тымф), шэсць грошаў, паўтарак*. Практыка паралельнага ліку на сярэбраную і медную манеты ўвасобілася ва ўвядзенні рознага курсу для манет аднаго наміналу: 1 сярэбраны грош прыраўноўваўся да 7,5 медных. У выніку рэформы 1767 адбыўся пераход з кракаўскай грыўні ў 201 г да кёльнскай у 233,8 г, з якой білася 10 талераў. У новым злотым серабра ўтрымлівалася на 26 % меней, чым у злотым часоў Яна Казіміра (ардынацыя 1659, гл. ў арт. *Грашовая рэформа Яна II Казіміра Вазы*), да якога ён прыраўноўваўся, што дазваляла пры абмене мець прыбытак у 20 %. Паводле канстытуцыі канвакацыйнага сейма 1764 з 1.9.1767 на абмен старых айчынных манет давалася 6 месяцаў. Медныя манеты выпускаліся на Кракаўскім, сярэбраныя на Варшаўскім манетных дварах. Выраб медных манет быў аддадзены ў арэнду П. М. Герцэнберг-Садагурскаму (гл. *Гродзенскі манетны двор*), які павінен быў выпусціць іх на 6 млн. злотых серабром. Паводле ўмоў кантракта дзяржава атрымлівала 20,8 % прыбытку ад сумы выробленых манет, аднак з 1772 рашэннем сейма манетныя двары перададзены ва ўласнасць караля. Паводле рашэння сейма 1786 з 15.3.1787 ліквідаваны сярэбраны грош, уводзіўся дзесяціграшовік нізкапробнага серабра, які займаў прамежкавае становішча паміж сярэбранымі і меднымі манетамі, сярэбранае ўтрыманне ў грашовых і талерных манетах знізілася на 4 %. У час паўстання 1794 з 14.6.1794 паводле загада Вярхоўнага галоўнакамандуючага ўзброенымі сіламі Т. Касцюшкі зноў панізілася сярэбранае ўтрыманне ў грашовых манетах на 2 %, талерных на 1 %, талер стаў шасцізлотавым, спыніўся выпуск паўталера, двухграшовіка і медных манет, зноў выбіваўся шастак, але з нізкапробнага серабра, разам з дукатам выпускаўся трохдукатавы *станіслаўдор* і яго палавінная фракцыя. Вярхоўны нац. савет у 1794 прыняў рашэнне аб эмісіі скарбовых білетаў на суму 60 млн. злотых наміналамі 5, 10, 25, 50, 100, 500, 1000 злотых і разменных у 5 і 10 грошаў, 1 і 4 злотыя, іх было эмітавана на суму 10,9 млн. злотых (ануляваны 6.11.1794). На манетах 1786—94 упершыню замест універсальнай латыні паявіліся надпісы на польскай мове.

*Літ.:* 1681, 1682, 1698, 1707, 1735, 1753. *І. І. Сінчук.*

**ГРАШО́ВЫЯ РЭФО́РМЫ СТЭ́ФАНА БАТО́РЫЯ.** Праводзіліся паводле рашэнняў сеймавых арды-

нацый 1578 і 1580. У 1578 у Олькушы адкрыты манетны двор, які пачаў выпускаць паводле ардынацыі Варшаўскага сейма 1578 *траякі, грошы, паўгрошы* і *соліды*, а таксама ўпершыню *талеры* і *паўталеры.*

Ардынацыя 1578 прадугледжвала для соліда пробу ў VI лотаў, для астатніх манет пробу ў XIV лотаў (гл. *Лотавая проба*). Кіраўніцтва манетнаю справай упершыню было даручана земскім *падскарбіям.* Паводле ардынацыі Кракаўскага сейма ад 15.1.1580 упершыню ўводзілася адзіная для Каралеўства Польскага і ВКЛ *манетная сістэма*, манеты атрымлівалі аднолькавыя метрычныя паказчыкі і вонкавае афармленне. Выпускаліся *дукаты*, талеры, паўталеры, *шэсць грошаў*, траякі, грошы, паўгрошы, соліды (1/3 гроша), трайны дэнарый, *дэнарый двайны, дэнарый* (1/18 гроша). Проба талера, паўталера, шастака, траяка прымалася ў XIII 1/2 лота, гроша і паўгроша ў V 3/4 лота, соліда і трайнога дэнарыя ў II 1/2 лота, двайнога дэнарыя і дэнарыя ў I 1/2 лота. У параўнанні са стапой папярэдняй ардынацыі ўтрыманне серабра памяншалася ў талеры на 1,6 %, траяку на 5,2 %, солідзе на 9,1 %, у грошы павышалася на 1,5 %. Стапа, устаноўленая ардынацыяй 1580, існавала да 1604.

*Літ.:* 1709, 1735, 1738. *І. І. Сінчук.*

**ГРАШО́ВЫЯ РЭФО́РМЫ Ў СССР.** За гады сав. улады праведзены 3 грашовыя рэформы: у 1922—24, 1947 і 1961.

Рэформа 1922—24 праведзена для стварэння грашовай сістэмы сав. дзяржавы. Неабходнасць рэформы выклікала змены наяўнай вартасці грашовых знакаў. У 1921 выпушчаны грашовыя знакі ўзору 1922 (10 тыс. руб. грашовымі знакамі папярэдніх выпускаў адпавядалі 1 руб. новымі). Грашовыя знакі 1922 былі заменены на знакі ўзору 1923 (100 руб. 1922 = 1 руб. 1923). Грашовае абарачэнне ў пэўнай ступені ўпарадкавалася, але абясцэньванне рубля не спынілася. У 1922 у абарачэнне ўведзены *чырвонец*, па ўтрыманню золата роўны дарэвалюцыйным 10 рублям (7,24234 г). Банкаўскія білеты наміналам 1, 3, 5, 10, 25 і 50 чырвонцаў былі забяспечаны золатам, каштоўнымі металамі, устойлівай інвалютай (не менш, чым на 25 %). Устойлівасць чырвонца падтрымлівалася абмежаванасцю яго тыражоў і надзейным забеспячэннем. Паступовае пашырэнне абарачэння чырвонца абмяжоўвала сферу выкарыстання грашовага знака, узмацняла яго абясцэньванне. У лістападзе 1922 прынята рашэнне чаканіць залаты чырвонец РСФСР, эмітаваны ў 1923 і выкарыстаны пераважна для разліку з замежнымі краінамі. У пач. 1924 у абарачэнне выпушчаны казначэйскія білеты з наміналам ў 1, 3, 5 руб. золатам, медныя і сярэбраныя манеты (гл. *Манеты СССР*). Выпуск грашовых знакаў спынены і наладжаны абмен іх на казначэйскія білеты (50 тыс. знакаў = 1 руб. білетамі). У красавіку 1937 залатое ўтрыманне рубля знізілася да 0,17685 г, у ліпені 1937 — да 0,16774 г.

Рэформа 1947 праведзена для аздараўлення фінансаў, аслабленых вайной, выключэння з абарачэння папяровых грашовых знакаў і замены іх новымі ў суадносінах 10:1. Уклады ў ашчадных касах на суму да 3 тыс. руб. не пералічвалі, сумы ў 3—10 тыс. руб. абменьвалі ў суадносінах 3 старыя на 2 новыя рублі больш за 10 тыс. руб.— 2:1. Аблігацыі масавых дзярж. пазык абменьвалі на аблігацыі новай 2 %-най пазыкі 1948 у суадносінах 3:1; аблігацыі свабоднай пазыкі 1938—5:1; аблігацыі пазыкі 1947, фонды дзярж. арг-цый і ўстаноў не пераацэньваліся; грашовыя сумы разліковых і бягучых рахункаў калгасаў, кааператыўных прадпрыемстваў і арганізацый — 5:4. У абарачэнне пушчаны новыя разменныя манеты, казначэйскія білеты наміналамі ў 1, 3, 5 руб., банкаўскія білеты — 10, 25, 50, 100 руб. Старыя манеты былі пакінуты ў абарачэнні без пераацэнкі. 1. 3. 1950 курс рубля пераведзены з доларавай на залатую аснову і быў роўны 0,222168 г.

Рэформа 1961 змяніла залаты стандарт рубля, увяла дадатковыя манетныя наміналы — 50 кап. і 1 рубель. Змяніўся маштаб цэн: 10 руб. старых= =1 руб. новаму. Выпушчаны новыя манеты, казначэйскія білеты ў 1, 3, 5 руб. і білеты Дзярж. банка СССР у 10, 25, 50 і 100 руб. У абарачэнні пакінуты бронзавыя манеты папярэдніх эмісій у 1, 2, 3 капейкі.

*Літ.:* 1510а, 1511, 1596, 1639.
*В. С. Касмылёў.*

**ГРО́ДЗЕНСКАЯ АРХІТЭКТУ́РНАЯ ШКО́ЛА**, самабытная архіт. школа, якая склалася ў Гродне ў 12 ст. Яе адметнымі рысамі з'яўляюцца цагляная раўнарадавая мураўка, незвычайная планавая структура і своеасаблівая дэкарыроўка фасадаў. Паводле планавай структуры найб. характэрнымі для Г. а. ш. з'яўляюцца *Гродзенская Ніжняя царква* і недабудаваны *Ваўкавыскі храм* (6-слуповыя пабудовы з адной апсідай і плоскімі лапаткамі). *Гродзенская Прачысценская царква* таксама мае планіроўку, блізкую да Ніжняй царквы, але яе апсіда прамавугольнай формы, што з'яўляецца сведчаннем уплыву *Полацкай архітэктурнай школы* (Пятніцкая царква Бельчыцкага Барысаглебскага манастыра). У Ваўкавыскім храме слупы павінны былі быць крыжовымі, але ў названых вышэй храмах яны квадратныя са скошанымі вугламі. Планіроўка *Гродзенскай Барысаглебскай царквы* інакшая — слупы круглыя, на прамавугольных падмурках, з У прыбудаваны тры паўкруглыя выступаючыя апсіды. Яе вонкавыя пілястры маюць двухступеньчаты профіль са скругленымі вугламі. Царква мела фрэскавую размалёўку, якая часткова захавалася. Вывучэнне рэштак *Гродзенскага княжацкага палаца* дазволіла зрабіць вывад, што гродзенскія палацы былі больш манументальныя і багацей аздобленыя, чым аналагічныя будынкі ў Смаленску і Полацку. Усе гродзенскія мураваныя будынкі мелі падлогі, выкладзеныя разнастайнымі па форме і колеры паліванымі керамічнымі пліткамі са складанымі геам. арнаментамі, а для паляпшэння акустыкі ў верхніх частках сцен і скляпенняў умуроўваліся керамічныя збаны — галаснікі, гарлавіны якіх (8—10 см у дыяметры) выходзілі ў пэўным парадку на паверхню. Самая характэрная асаблівасць гродзенскіх помнікаў дойлідства 12 ст.— выключная па разнастайнасці дэкаратыўная апрацоўка фасадаў. Для гэтага выкарыстоўваліся розныя па колеры і памерах шліфаваныя камяні і фігурныя керамічныя пліткі, з якіх выкладваліся крыжы і інш. фігуры. Напр., для аздаблення фасадаў Ніжняй царквы былі выкарыстаны зялёнапаліваныя керамічныя пліткі накшталт глыбокіх талерак. Аналіз знакаў на гродзенскай плінфе дазваляе зрабіць вывад, што ў Гродне працавалі запрошаныя з Полацка муляры. Пазней яны і іх нашчадкі разам з П. Міланегам, кіраўніком гродзенскай арцелі дойлідаў, пераехалі ў Чарнігаў, дзе выраблялі плінфу для будаўніцтва царквы.

*Літ.:* 953. *А. А. Трусаў.*

**ГРО́ДЗЕНСКАЯ БАРЫСАГЛЕ́БСКАЯ ЦАРКВА́**, Каложская царква, помнік архітэктуры апошняй чвэрці 12 ст. Пабудавана на высокім правым беразе р. Нёман, на тэр. Каложскага пасада.

Верхняя частка будынка разам са скляпеннямі і купалам аднаўлялася ў 16 і 17 ст. У 1853 часткова разбурана ў выніку апоўзня, у 1889 абвалілася паўд. апсіда. У канцы 19 ст. знішчаныя часткі храма ўзноўлены з дрэва, царква накрыта 2-схільным дахам з маленькім купалам. Захаваліся паўночная і частка зах. сцяны, 3 апсіды і 2 зах. падкупальныя слупы. Мураваны 6-стаўповы 3-апсідны крыжова-купальны храм памерам 13,5×21,5 м, таўшч. сцен каля 1,2 м. У канцы 19 ст. помнік даследаваў В. В. Гразноў, які выявіў у мураўцы будынка *галаснікі*, знакі на цэгле і выказаў думку, што царква мела фрэскавую размалёўку. У пач. 20 ст. храм вывучаў П. П. Пакрышкін, які прапанаваў праект поўнага яго аднаўлення. У 1935 у сувязі з рамонтам царквы раскопкі ў будынку і вакол яго зрабіў Ю. Ядкоўскі, які высветліў, што падмуркі бажніцы зроблены ўсухую з камянёў сярэдніх памераў глыб. 1,5 м. Унутры царквы сабрана шмат паліваных плітак ад падлогі 12 ст., а ў паўн.-ўсх. апсідзе прасочаны кавалак першапачатковай падлогі, над якім знаходзілася праслойка чорнай зямлі таўшч. 5—8 см, а вышэй былі знойдзены фрагменты тоўстых (да 5 см) рэльефных арнаментаваных непаліваных плітак памерам 19,5×19,5 см, якія, магчыма, адносяцца да 13 ст. Рэшткі першапачатковай падлогі 12 ст., зробленай з фігурных плітак з зялёнай і жоўтай палівай, прасочаны ў галоўнай апсідзе. Вынікі гэтых даследаванняў апублікаваны ў 1936. У 1946 храм абследаваў І. М. Хозераў, які ўпершыню адзначыў наяўнасць 4 круглых слупоў, не характэрных для помнікаў дойлідства 12 ст. на тэр. Беларусі. У 1981, 1983—84 царкву даследавалі П. А. Рапапорт і А. А. Трусаў. Ускрыты квадратныя падмуркі паўн.-ўсх., паўн.-зах. і паўд.-

зах. слупоў. Высветлена, што дыяметры зах. слупоў маюць амаль аднолькавыя памеры з падкупальнымі слупамі (адпаведна 1,85 і 1,72 м). У паўд. апсідзе захаваліся рэшткі падлогі 12 ст., выкладзенай з квадратных і трохвугольных паліваных плітак. У час раскопак каля царквы прасочаны культурны пласт з керамікай 11—12 ст., вызначана месцазнаходжанне больш позняга манастыра (сабрана вял. колькасць непаліванай керамікі 15—16 ст.). У час рэстаўрацыйных работ 1985—86 раскрыты фрагменты фрэскавай размалёўкі 12 ст. і шматлікія графіці на сценах. Сцены зроблены з добра абпаленай плінфы памерам 3,5—4×16—16,5×26—28 см у тэхніцы роўнаслаёвай муроўкі. Вапнавая рошчына, акрамя цамянкі, мае дамешкі дробнапасечанай саломы і кавалачкаў драўнянага вугалю. Муроўка сцен зроблена ў лусковай тэхніцы: з цэглы рабіліся толькі шчокі сцяны, а сярэдзіна складалася з забутоўкі — цаглянага друзу і дробных камянёў. Галаснікі (дыям. гарлавін 7—8 см) не толькі ствapaлi рэзананс, але памяншалі вагу скляпенняў і змяншалі гарызантальны распор. Таму купал і слупы, што падпіралі скляпенні, былі больш тонкімі, і ўнутраная прастора царквы мае выгляд вял. залы, параўнаўча невял. храм уяўляецца значна большым па плошчы.

*Літ.*: 1226. *А. А. Трусаў.*



Знакі на цаглінах з **Гродзенскай Барысаглебскай царквы.** 12 ст.

**ГРО́ДЗЕНСКАЯ ВЕ́РХНЯЯ ЦАРКВА́**, помнік стараж. дойлідства. Пабудавана на мяжы 13 і 14 ст. на месцы *Гродзенскай Ніжняй царквы* на тэр. *Гродзенскага Старога замка.*

Выяўлена ў 1933 Ю. Ядкоўскім, які ў працэсе даследавання не праводзіў фіксацыі раскопак і не звяртаў увагі на стратыграфію, таму помнік быў цалкам пазбаўлены археал. асяроддзя. Гэта быў невял. храм, квадратны ў плане (8,9×8,9 м), з паўкруглай выступаючай апсідай. Вуглы яго былі абрэзаны, што нагадвае абрысы Ніжняй царквы. Падмурак складзены з 2—3 радоў камянёў, у муроўцы выкарыстаны тонкая (амаль плінфа) і тоўстая брусковая цэгла (31×17×8,7 см, 31×16×8 см, 30,5×15×7 см, 28,7×13,5×7 см). Таўшч. швоў ад 1 да 5 см, у якасці рошчыны выкарыстана белая вапна з дамешкам пяску і жвіру. На думку М. М. Вароніна, будынак быў атынкаваны, але гэта малаверагодна, бо тынкоўка на Беларусі паявілася ў 2-й пал. 16 ст. Падлога была цагляная. Усярэдзіне будынка знойдзены рэшткі крыжовага ў плане слупа са зрэзанымі вугламі, які, на думку Вароніна, быў зроблены значна пазней. Пазнейшымі ён лічыў і 2 іншыя «слупы», што аддзялялі апсіду ад асн. аб'ёму будынка. Варонін прапанаваў першапачатковую рэканструкцыю плана царквы ў выглядзе бесслуповага аб'ёму з вял. апсідай. У верхніх пластах развалаў вакол рэшткаў будынка былі сабраны фігурная стрэлападобная цэгла і чырвоная пляскатая дахоўка. Наконт часу ўзвядзення помніка ў даследчыкаў няма адзінай думкі. Польскія вучоныя лічылі, што храм узведзены ў 13 ст. Я. Вайцяхоўскі звязваў існаванне царквы з часам княжання Міндоўга, але, на яго думку, яна магла знаходзіцца і ў замку вял. князя літ. Вітаўта. Варонін сцвярджаў, што паколькі ўзровень падлогі царквы знаходзіўся амаль на 0,5 м вышэй, чым брукаванка Вітаўта, то ўзвядзенне яе можна аднесці да 14 ст., пазней ён датаваў храм канцом 14 — пач. 15 ст. С. Абрамаўскас заўважыў, што пасля раскопак 1932—33 помнік некалькі гадоў знаходзіўся пад адкрытым небам і страціў некаторыя каштоўныя фрагменты. Таму страчаныя элементы вонкавай муроўкі былі выкладзены пазней з плінфы, узятай з развалаў Ніжняй царквы (верагодна, у 1937). Зрабіўшы аналіз буд. рошчыны, В. Левандаўскас устанавіў, што яна вельмі тлустая і прыгатавана з слабай гідраўлічнай вапны, змяшанай з напаўняльнікамі, якія складаюцца з 52 % дробна патоўчанай цэглы і 48 % дробнага пяску, у прапорцыі 1:0,3—1:0,4. На вонкавы бок муроўкі ў асн. выходзяць тычкі цаглін. Муроўка сцен лусковая (унутраная частка сцяны запоўнена валунамі, а вонкавыя бакі складзены з цэглы). Абодва даследчыкі лічаць, што храм узведзены ў сярэдзіне — 2-й пал. 13 ст. Параўноўваючы цэглу Г. В. ц. з цэглай іншых тагачасных помнікаў Беларусі і Літвы (Крэўскі і Лідскі замкі, мураваныя збудаванні Навагародка і Вільні), можна зрабіць вывад, што храм пабудаваны на мяжы 13 і 14 ст. Па знаходках пляскатай дахоўкі і фігурнай цэглы можна меркаваць, што царква мела высокі гатычны дах і нервюрныя скляпенні. Дахоўка шыр. 15 см, таўшч. 2 см з адным круглаватым канцом і трохвугольным або авальным па форме мацавальным шыпам існавала на Беларусі ў канцы 15—16 ст. Выходзячы з гэтага, можна лічыць, што Верхняя царква існавала ў 1-й пал.— сярэдзіне 16 ст. як замкавы храм і была разабрана ў час будаўніцтва замка С. Баторыя ў апошняй чвэрці 16 ст. *А. А. Трусаў.*

**ГРО́ДЗЕНСКАЯ НІ́ЖНЯЯ ЦАРКВА́**, помнік архітэктуры 12 ст. Знаходзілася на тэр. *Гродзенскага Старога замка*, на б. дзядзінцы. Захаваліся рэшткі сцен, драўлянай

алтарнай сценкі, падлогі з керамічных плітак. Рэшткі зах. і паўд. сцен храма на выш. ад 2 да 3,5 м выяўлены ў час земляных работ 1932—33, якімі кіраваў Ю. Ядкоўскі. Ён не звяртаў увагі на стратыграфію і таму быў адхілены ад кіраўніцтва раскопкамі. У 1937—39 даследаванне царквы працягваў З. Дурчэўскі, які лічыў, што Г. н. п. загінула ў час пажару 1183 і потым не аднаўлялася. Над раскапаным помнікам быў зроблены драўляны павільён. У 1949 раскопкі храма прадоўжыў М. М. Варонін.

Царква ўяўляла сабой 6-слупавы храм даўж. каля 16,8 м, шыр. 11,6 м з трыма апсідамі (2 у тоўшчы сцяны), вуглы будынка зрэзаны. Адкапаны паўн.-зах. слуп, таксама са зрэзанымі вугламі. Фасады і інтэр'еры былі аздоблены плоскімі лапаткамі. Унутраныя паверхні сцен мелі шматлікія адтуліны, што ўтвараліся гарлавінамі галаснікоў. У паўд.-зах. куце будынка размяшчалася цагляная вітая лесвіца, якая вяла на хоры. Муры царквы складзены з плінфы (сярэднія памеры 3,5—4 × 15 × 25—26,5 см), некаторыя цагліны маюць на тарцах знакі. Падмурак складзены з дробных камянёў без вапнавай рошчыны. Знойдзены кавалкі аплаўленых у агні свінцовых лістоў даху. Фасады храма былі ўпрыгожаны керамічнымі паліванымі пліткамі рознай формы, вял. шліфаванымі камянямі і паліванымі круглымі блюдамі. Захаваліся рэшткі падлогі з керамічных паліваных плітак, якія стваралі складаны геам. малюнак. Царква не мела фрэскавай размалёўкі. Былі прасочаны таксама рэшткі драўлянай алтарнай сценкі, некалі аздобленай шматлікімі меднымі пласцінкамі з рознымі малюнкамі. Выяўлены кавалкі панікадзілаў, лампад, рэшткі ад звона з рэльефным надпісам. Варонін лічыў, што царква ўзведзена ў 2-й чвэрці — сярэдзіне 12 ст. П. А. Рапапорт датуе храм 2-й пал. 12 ст., як і інш. помнікі *Гродзенскай архітэктурнай школы*. Каляровую рэканструкцыю маёлікавай падлогі царквы зрабіла М. У. Малеўская.

*Літ.*: 206, 738, 959. *А. А. Трусаў.*



Бронзавы вадаліў 1-й пал. 13 ст. з **Гродзенскай Барысаглебскай царквы.**



Цэгла з літарнымі знакамі і арнаментальнымі графіці з **Гродзенскай Ніжняй царквы** 12 ст.



Гравіраваная пласціна з геаметрычным арнаментам з **Гродзенскай Ніжняй царквы.**

**ГРО́ДЗЕНСКАЯ ПРАЧЫ́СЦЕНСКАЯ ЦАРКВА́**, помнік архітэктуры 12 ст. Пабудавана ў тэхніцы рознаслаёвай муроўкі з выкарыстаннем дэкаратыўных элементаў, характэрных для Гродзенскай архітэктурнай школы. Даследаванні яе рэштак праведзены ў 1980 архіт.-археал. эскпедыцыяй Спец. навукова-рэстаўрацыйных вытворчых майстэрняў Міністэрства культуры БССР (кіраўнік І. М. Чарняўскі) пры ўдзеле археал. атрада Гродзенскага ун-та (кіраўнік М. А. Ткачоў). У апсіднай частцы муроўка сцен захавалася на выш. да 1,5 м, яна паніжаецца ў зах. кірунку. Ад гал. фасада захаваўся толькі падмурак. У 1-й пал. 15 ст. царква была капітальна адрамантавана буйнапамернай цэглай-пальчаткай цёмна-чырвонага колеру памерам 27,5 × 12—13 × 8—8,5 см.

Царква ўяўляла сабой 6-слупавы 3-нефавы храм з трыма прамавугольнымі ў плане апсідамі. Слупы ў плане квадратныя са скошанымі вугламі на квадратным цокалі памерам 1,5 × 1,5 м. Памеры слупоў усх. пары крыху меншыя (1,25 × 1,25 м). Унутраныя лапат-

кі даўж. 1,25 м, прамыя. Форма знешніх не ўстаноўлена. Шыр. храма 12,5 м, даўж. падкупальнай прасторы 3,35 м, шыр. 3,8 м. Таўшч. сцен бакавых фасадаў 1,1 м, усх. сцен 1 м. Таўшчыня сцен зах. фасада невядома. Яго падмуркавы роў шыр. 2,1 м. Падмуркі царквы глыб. 0,5 м складзены з камянёў розных памераў «насуха». Вышэй каменнага падмурка ідзе муроўка з плінфы памерам 28×16×4, 26×14×3,5 см на цамянкавай рошчыне. Пераважае плінфа большага памеру. Пры раскопках знойдзена некалькі экземпляраў лякальных цаглін, якія выкарыстоўваліся для муроўкі калонак, гзымсаў і інш. архіт. дэталей верхняй часткі храма. Ніжнія 5 радоў муроўкі сцен выступаюць на 0,2 м, утвараючы ступеньчаты цокаль, які ахоплівае будынак па ўнутраным перыметры. Аналагічны цокаль ёсць і з вонкавага боку. Муроўка сцен парадавая, без пэўнага парадку ў чаргаванні тычкоў і лажкоў. У цэнтр. апсідзе выяўлены рэшткі 2 канструкцый з плінфы. Адна з іх мае фігурныя абрысы і прымыкае непасрэдна да ўсх. сцяны, другая, прамавугольная ў плане,— размяшчаецца пасярод алтара. У паўд.-зах. часткі храма выяўлены рэшткі падлогі з маёлікавых плітак зялёнага, жоўтага і карычневага колераў. Акрамя таго, у розных частках храма пры раскопках трапляліся квадратныя, трохвугольныя, трапецападобныя са скошанымі вугламі, круглыя, сегментападобныя пліткі і шматлікія іх фрагменты. У царкве каля паўд. партала выяўлены прыступкі з 2 апрацаваных камянёў. Пры раскопках знойдзены абломкі галаснікоў, фрагменты і цэлыя часткі дэкору сцен — паліваных плітак у выглядзе пялёсткаў, крыжоў, іх цэнтр. частак квадратнай формы. У царкве, як і ў інш. помніках Гродзенскай архіт. школы 12 ст., для аздаблення фасадаў у муроўку з плінфы ўводзіліся шліфаваныя камяні розных памераў. У завалах буд. матэрыялу знойдзены кавалкі расплаўленага свінцу, відавочна, рэшткі першапачатковага пакрыцця храма. Пад царквой залягае культурны пласт 11—12 ст. таўшч. 0,2—0,6 м. Загінуў храм у час аднаго з пажараў каля 1654. У пач. 18 ст. рэшткі яго былі разабраны, а пры будаўніцтве манастыра базыльянак, якое пачалося ў 1720, яны былі засыпаны буд. друзам. На гэтым месцы з 2-й пал. 17 ст. размяшчаліся магільныя скляпы, выкананыя ў выглядзе паўцыліндрычных аб'ёмаў. *І. М. Чарняўскі.*

**ГРО́ДЗЕНСКІ ВАКО́ЛЬНЫ ГО́РАД**, умацаваная гандл.-рамесніцкая частка сярэдневяковай Гародні. Размяшчаўся на ўзвышшы Новы замак побач з *Гродзенскім Старым замкам.* З 14 ст. вядомы як Гродзенскі Ніжні замак. З Пд абмежаваны высокім абрывам берага Нёмана,з У — глыбокім ярам, які да 18 ст. амаль цалкам абкружаў Новы замак, пазней засыпаны. У 1987—88 А. К. Краўцэвіч даследаваў 40 м$^2$ у паўд.-зах. частцы. Культурны пласт да 3,3 м, светла-шэрага колеру. Амаль на самым мацерыку прасочваюцца сляды пажару. Выяўлены фрагменты керамічнага посуду 12—13 ст. (у перадмацерыковым пласце — 11 ст.), вял. колькасць прамавугольнай (28×16,5×3,5 см) і фігурнай плінфы, 4 фрагменты маёлікавых плітак падлогі і 3 фрагменты галаснікоў 12 ст. Знаходкі дазваляюць меркаваць пра існаванне ў 12 ст. на вакольным горадзе яшчэ адной (Васкрасенскай) царквы — помніка *Гродзенскай архітэктурнай школы.* Астатнія матэрыялы датуюцца 15—18 ст. Частка раскопу прыйшлася на падмурак мураванага будынка 16 ст. Паводле гравюры М. Цюндта (1567—68) тут быў «каралеўскі дом».

Сярод знаходак шмат керамічнага посуду, фрагменты фаянсавых талерак, шкляныя бутэлькі, кварты, стопкі, бутлі, слоікі 17—19 ст., маёлікавыя міскі і талеркі 18 ст., шмат аптэчнага посуду канца 19 — пач. 20 ст., фрагменты гаршковай кафлі 14—15 і 16—17 ст. з круглым, квадратным і прамавугольным вусцем, каробчатай кафлі канца 16—17 ст. з зялёнай палівай, паглыбленай выявай шматпялёсткавай разеткі і з дывановым арнаментам, металічныя абутковыя падкоўкі, дужка шпоры 15—16 ст., цвікі і інш. *А. К. Краўцэвіч.*

**ГРО́ДЗЕНСКІ ГІСТО́РЫКА-АРХЕАЛАГІ́ЧНЫ ЗАПАВЕ́ДНІК,** Створаны паводле пастановы ЦК КПБ і Савета Міністраў БССР ад 19.9.1967 «Аб стане і мерах паляпшэння аховы помнікаў гісторыі, мастацтва і архітэктуры ў Беларускай ССР». Уключае Замкавую гару, якая займае высокі трохвугольны пагорак на мысе, утвораным пры ўпадзенні р. Гараднічанкі ў Нёман (выш. над летнім межаным уз-



Фрагмент маёлікавай падлогі **Гродзенскай Ніжняй царквы** 12 ст. Рэканструкцыя.



Конская вупраж і амуніцыя воіна-конніка 12—13 ст. з экспазіцыі **Гродзенскага гісторыка-археалагічнага музея.**

роўнем вады ў рацэ 32 м). У 10 ст. тут існавала стараж. паселішча, якое ў 11 ст. стала дзядзінцам стараж. горада. У 11—12 ст. дзядзінец умацаваны абарончым валам і мураванай сцяной (гл. *Гродзенскія муры*). У паўд. частцы дзядзінца на схіле гары пабудаваны мураваны *Гродзенскі княжацкі палац*, а на цэнтр. частцы дзядзінца — *Гродзенская Ніжняя царква*, якая згарэла ў 1183 г. У 14 ст. на яе месцы пабудавана *Гродзенская Верхняя царква*. Пасля пажару ў 1398 вял. кн. ВКЛ Вітаўт пабудаваў тут гатычны 5-вежавы Верхні замак (гл. *Гродзенскі Стары замак*). На тэр. замка быў 2-павярховы палац памерам 45×15 м, сцяна якога адначасова з'яўлялася і сцяной крэпасці. У 1580 палац перабудаваны для караля Рэчы Паспалітай Стэфана Баторыя. Новы палац нагадваў у плане перакошаны прамавугольнік памерам 60×21 м. Фасады і плоскасці франтонаў былі арнаментаваны сграфіта і разьбой, вокны мелі тонкія ліштвы з раслінным арнаментам. У цэнтры фасада была парадная лесвіца на 2-і паверх. Разбурэнне і аднаўленне ў 17 ст., перабудова ў 18 ст. і надбудова 3-га паверха ў 19 ст. змянілі аблічча палаца. Цяпер у ім размяшчаецца *Гродзенскі гісторыка-археалагічны музей*.

*В. М. Царук.*

**ГРО́ДЗЕНСКІ ГІСТО́РЫКА-АРХЕАЛАГІ́ЧНЫ МУЗЕ́Й.** Заснаваны ў 1920 па ініцыятыве археолага Ю. Ядкоўскага, адкрыты ў 1922 у Гродне. З 1931 размешчаны ў палацы Старога замка. Археал. калекцыя мае больш за 25 тыс. прадметаў (1991). Экспануюцца матэрыялы з раскопак стаянак, паселішчаў, могільнікаў *Беневічы, Гарадзілаўка, Гожа, Індура, Малыя Ёдкавічы*, Мігава, *Турыйск*, Краснасельскіх крэменездабыўных шахтаў, з раскопак у Гродне і інш.

Сярод экспанатаў косці мамантa і шарсцістага насарога, вырабы з крэмсню (скрабкі, нажападобныя пласціны, наканечнікі стрэл і коп'яў) і жалеза (нажы, гарпуны, сярпы, косы, цвікі, замкі, сякеры, шылы, малаткі, рыбалоўныя кручкі і інш.), упрыгожанні (бронзавыя і шкляныя бранзалеты, рознакаляровыя шкляныя пацеркі, бронзавыя спражкі, пярсцёнкі і інш.), ліцейныя формы для вырабу ўпрыгожанняў, тыглі, узбраенне і амуніцыя воіна (стрэлы, баявыя сякеры, кальчугі, шпоры, ножны, каменныя ядры), касцяныя вырабы з літарамі, шыферныя прасліцы з надпісамі. Шмат керамічных вырабаў (ляпны штрыхаваны посуд, ганчарныя арнаментаваныя гаршкі, цацкі, галаснікі, маёлікавая плітка, кафля 12—18 ст.). У нумізматычнай калекцыі 18 тыс. экспанатаў: дэнарыі, паўгрошы, грошы Вял. кн. Літоўскага, соліды, траякі, грошы, паўтаракі, шасціграшовікі, орты Рэчы Паспалітай, манеты Венгрыі 16 ст., Нідэрландаў, Прусіі, Швецыі, Іспаніі 17 ст., Расіі канца 18 — пач. 20 ст. Зберагаюцца больш за 20 манетных і манетна-рэчавых скарбаў, знойдзеных на Гродзеншчыне, а таксама медалі 18—20 ст., ордэны 20 ст. *В. М. Царук.*

**ГРО́ДЗЕНСКІ КНЯ́ЖАЦКІ ПАЛА́Ц,** помнік архітэктуры 12 ст. Размяшчаўся на тэр. *Гродзенскага Старога замка*, на паўд. рагу Гродзенскага дзядзінца. Захавалася паўн. частка палаца. Даследаваў у 1932—33 Ю. Ядкоўскі. Палац, відаць, быў двухпавярховы, меў драўляныя перакрыцці на бэльках. Сцены зроблены з плінфы памерам 4—5×18—20×29,5—31 см у роўнаслаёвай тэхніцы, на тарцах плінфаў ёсць знакі. Звонку ў сцены былі ўмураваны рады амаль неапрацаваных камянёў. Падмурак таўшч. 35—40 см складзены з аднаго раду камянёў і праслойкі бітай плінфы і вапны пад ім, быў упушчаны ў культурны пласт 11—12 ст. Пры раскопках выяўлена паўн. сцяна даўж. 9,7 м, выш. да 2 м, пасярэдзіне яе захаваўся дзвярны праём шыр. 1,6 м. Знойдзены паліваныя пліткі ад падлогі 12 ст. (у т. л. фігурныя), злiткі аплаўленага свінцу (відаць, ад лістоў пакрыцця даху), шматлікія бытавыя рэчы. У канцы 14 — пач. 15 ст. да палаца быў прыбудаваны ганак (на брусковай цэгле прасочаны некалькі метак). У 16 ст. пры будаўніцтве Старога замка будынак быў разбураны. Ядкоўскі і інш. даследчыкі 1930-х г. лічылі знойдзеную пабудову рэштками княжацкага палаца, а М. М. Варонін — рэшткамі абарончай вежы. Даследаванні П. А. Рапапорта і А. А. Трусава ў 1981 пацвердзілі меркаванне Ядкоўскага. Яны выказалі таксама думку, што палац мог выконваць і абарончую функцыю ў канцы 14 — пач. 16 ст., калі ўвайшоў у склад мураванага замка, пабудаванага Вітаўтам, пра што сведчаць знаходкі ў памяшканнях палаца каменных гарматных ядраў.

*Літ.*: 959, 1226. *А. А. Трусаў.*



Знакі на цаглінах з **Гродзенскага княжацкага палаца.** 12 ст.

**ГРО́ДЗЕНСКІ МАНЕ́ТНЫ ДВОР.** Выпускаў *траякі* (1706) і *шэсць грошаў* (1706—07) *лотавай пробы* IV. На аверсе манет — выява караля Рэчы Паспалітай Аўгуста II [1697—1706, 1709—33], на рэверсе радавы



**Гродзенскі манетны двор:** 1. Тры грошы 1706; 2. Шэсць грошаў 1706; 3. Талер 1793.

герб «Вага» падскарбія вял. літоўскага Л. Пацея, яго ініцыялы LP. Манеты выраблялі тэхнікай вальцоўкі (гл. ў арт. *Тэхніка манетнай справы*). Пры Станіславе Аўгусце Панятоўскім [1764—95] была распачата спроба ўзнавіць работу Г. м. д. 16.7.1768 Скарбовая камісія ВКЛ прыняла праект пабудовы ў Гродне новага манетнага двара, даручыўшы весці работы адміністратару Кракаўскага і Варшаўскага манетных двароў П. М. Герцэнбергу-Садагурскаму, але, перагледзеўшы сваё рашэнне, 11.1.1769 адмовілася ад гэтага. З Г. м. д. традыцыйна звязваюць выраб талера 1798 Таргавіцкай канфедэрацыі.

*Літ.*: 1585, 1658, 1667. *І. І. Сінчук.*

**ГРО́ДЗЕНСКІ СТАРЫ́ ЗА́МАК.** Існаваў у 12—17 ст. у сутоках рэк Гараднічанкі і Нёмана, на яго высокім правым беразе.

Першапачаткова меў выгляд земляных умацаванняў з вастраколам і зрубамі-гароднямі. У 2-й пал. 12 ст. ўзведзены мураваныя сцены (гл. *Гродзенскія муры*) і вежы з плінфы, што было унікальнай з'явай у тагачасным замкавым будаўніцтве на Беларусі. У 2-й пал. 13 ст. з боку поля (ўсх.) узведзена круглая вежа — мураваны «стоўп». У выніку шматлікіх аблог крыжакамі (1284, 1296, 1306, 1311, 1312, 1328, 1361, 1363, 1373, 1375, 1377, 1390, 1393 і 1402) асобныя ўчасткі мураваных умацаванняў паступова былі разбураны і заменены драўлянымі. На дзядзінцы былі драўляныя жылыя і гасп. пабудовы, мураваны *Гродзенскі княжацкі палац* і *Гродзенская Ніжняя царква* з плінфы, пабудаваная ў 1130-я г. Пазней яна была разбурана. На мяжы 13—14 ст. на гэтым месцы ўзвялі другі храм — *Гродзенскую Верхнюю царкву*. Пасля пажару ў 1398 сцены замка з плінфы заменены сценамі з валуноў і вялікапамернай брусковай цэглы. У плане замак набыў форму няправільнага 3-вугольніка. Сцяна, звернутая да Нёмана, мела даўж. 120 м, з боку Гараднічанкі — 90 м, з боку горада складалася з 2 частак — 46 і 24 м. Таўшч. сцен 2,5—3 м. У Г. С. з. было 5 вежаў. Вежа-брама з турмой пад ёй мела пад'ёмны мост цераз сухі роў, які аддзяляў яе ад гар. пасада (Ніжняга замка). У верхняй частцы брамы знаходзіліся навісаючыя байніцы-абламы, за зубцамі — баявая пляцоўка. Другая вежа стаяла на Пд ад першай, 3-я — на зах. баку гары, на мысе па-над Гараднічанкай, 4-я — на паўн.-ўсх. напрамку, з боку горада, 5-я — у заломе муроў з усх. боку, каля ўязной вежы. Пятая вежа была круглая ў плане, астатнія — квадратныя (каля 12×12 м). Паміж 4-й і 5-й вежамі знаходзіўся палац вял. кн. Вітаўта, пабудаваны ў канцы 14 — пач. 15 ст. Будынак (45×15 м) быў 2-павярховы з тоўстымі сценамі. Пакоі ў ім размяшчаліся ў адзін рад. У звернутай у бок горада сцяне вокны 2-га паверха мелі выгляд вузкіх байніц. У 1580 у час узвядзення новага палаца С. Баторыя вежу-браму і «стоўп» разбурылі. Пазней былі знесены або надбудаваны з дрэва астатнія вежы. Замкавыя ўмацаванні канчаткова зніклі пасля вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67.

Археал. раскопкі Г. С. з. праводзілі ў 1920—30-я г. Ю. Ядкоўскі і З. Дурчэўскі, у 1948—49 М. М. Варонін, у 1971, 1986—88 М. А. Ткачоў, Я. Г. Звяруга, А. А. Трусаў, П. А. Рапапорт, А. К. Краўцэвіч і інш.

*Літ.*: 1200. *М. А. Ткачоў.*



Руіны сцен **Гродзенскага Старога замка** 14—16 ст.



**Гродзенскі Стары замак** 14 ст. Рэканструкцыя.

**ГРО́ДЗЕНСКІ ЦАРКО́ЎНА-АРХЕАЛАГІ́ЧНЫ КАМІТЭ́Т,** Гродзенскі археалагічны камітэт, установа, якая збірала, ахоўвала, вывучала і папулярызавала стараж. пісьмовыя помнікі і помнікі матэрыяльнай культуры на тэр. Гродзенскай губ. Існаваў з 26. 11 (9. 12). 1904 да 1915. Статут зацверджаны ў 1905. Камітэт арганізаваў музей («сховішча старажытнасцей»), які з 1907 размяшчаўся ў памяшканні Гродзенскага Барысаглебскага манастыра. Справаздачы пра дзейнасць камітэта рэгулярна друкаваліся ў «Гродненских епархиальных ведомостях». Перастаў існаваць у сувязі з акупацыяй тэр. губерні кайзераўскімі войскамі.

*Літ.*: 840.



Да арт. **Гродзенскія муры.** Развал сцяны 12 ст. (раскопкі 1988).



Да арт. **Гродзенскія муры.** Сцяна 12 ст. (раскопкі 1985).

**ГРО́ДЗЕНСКІЯ МУРЫ́,** рэшткі мураваных сцен 12 ст. на тэр. *Гродзенскага Старога замка.* Узведзены на грэбені стараж. вала, мелі абарончае і часткова дэкаратыўнае прызначэнне. У 1937 польскія археолагі выявілі ў паўн.-зах. частцы дзядзінца фрагмент складзенай з

плінфы сцяны даўж. каля 4,5 м, выш. каля 1,8 м. У 1949 фрагмент сцяны абследаваў М. М. Варонін і выказаў меркаванне, што гэта рэшткі вуглавой абарончай вежы гродзенскага дзядзінца. У 1981 муры даследавалі П. А. Рапапорт і А. А. Трусаў, у 1985—86 Трусаў, Рапапорт, М. А. Ткачоў, Л. М. Бальшакоў, А. К. Краўцэвіч, у 1988 Трусаў. Даўж. выяўленай часткі сцяны каля 12 м. У 1988 развал сцяны на паўн. схіле Замкавай гары прасочаны на працягу 20—22 м. Даўжыня цаглянага муру ў гэтай частцы стараж. дзядзінца некалі раўнялася 42—45 м. Муроўка захавалася на выш. каля 0,6 м. Сярэдняя частка сцяны часткова разбурана будаўніцтвам гатычнага казематa 15 ст. (разбураны, відаць, у 16 ст., спаленая драўляная яго падлога ляжыць непасрэдна на развале стараж. муроўкі). Сцяна практычна не мае падмурка і збудавана на тонкай праслойцы буд. друзу. Тэхніка муроўкі роўнаслаёвая. Памеры плінфы 27—29×16,5—18×3,5—4,5 см. Яна добра абпалена, некаторыя цагліны-плінфы маюць на тарцах выпуклыя знакі ў выглядзе літар і розных геам. фігур (найчасцей літары А, Б, В). У муроўцы выкарыстаны розныя тыпы лякальнай плінфы: трапецападобная, з паўкруглым канцом і інш. Плінфа пакладзена на вапнавай рошчыне з дамешкамі цамянкі, гарызантальныя швы паміж цаглінамі прыкладна роўныя па таўшчыні цаглінам. Таўшч. цаглянага муру 1,4—1,5 м. Захаваліся 2 скразныя круглыя адтуліны дыям. 15 см ад падоўжаных драўляных сувязей, якія выкарыстоўваліся ў якасці арматуры. У час раскопак перад сцяной на схіле Замкавай гары выяўлены фрагмент б. муру. Яго памеры і суадносіны з рэшткамі сцяны дазваляюць меркаваць, што выш. цаглянага муру была не менш за 5 м. Прымаючы пад увагу, што фармат цэглы падобны да цэглы *Гродзенскага княжацкага палаца*, можна меркаваць, што Г. м. ўзведзены ў канцы 12 ст. Глыб. развалу сцяны на паўн. схіле дзядзінца 1,9—2 м ад сучаснай дзённай паверхні. Сама сцяна загінула ў выніку вял. пажару, верагодна, звязанага з ваеннымі дзеяннямі, пра гэта сведчыць знаходка шпоры 13—14 ст. у пласце пажару пад развалам сцяны 12 ст.

Рэшткі яшчэ аднаго цаглянага муру 12 ст. выявілі ў 1986 Трусаў і Ткачоў ва ўсх. частцы дзядзінца каля палаца 16 ст. Сцяна складзена з плінфы розных памераў, у муроўцы таксама выкарыстана трапецападобная цэгла (некаторыя плінфы маюць на тарцах знакі). Фармат плінфы прыблізна роўны 4×16×29 см. Даўж. выяўленага фрагмента муроўкі 6 м, далейшы працяг сцяны ідзе на ўсх. профіль раскопу. Шыр. сцяны 1—1,3 м, захавалася на выш. да 1,6 м, не мае падмурка, праходзіла па стараж. схіле Замкавай гары. Непасрэдна пад сцяной на глыб. каля 2,8 м ад сучаснай дзённай паверхні ідзе праслойка з белага пяску таўшч. 0,2—0,3 м. Пад ёй выяўлены сляды моцнага пажару. Відаць, пасля яго, калі былі знішчаны драўляныя ўмацаванні замка, і была ўзведзена муравaная сцяна з плінфы. Калі загінула гэтая сцяна, дакладна не вызначана, але ў час будаўніцтва палаца 16 ст. яе часткова разбурылі і засыпалі тоўстым пластом зямлі.



Падсвечнікі. **Гродна, 12 ст.**



Рог арнаментаваны. **Гродна,** 12 ст.

*Літ.*: 147б, 122б. *А. А. Трусаў.*

**ГРО́ДЗЕНСКІЯ ПАСА́ДЫ,** гандлёва-рамесныя часткі сярэдневяковай Гародні 11—18 ст. Цэнтральны пасад размяшчаўся на тэрыторыі, абмежаванай з З і Пн р. Гараднічанка, з У прыродным ярам і з Пд правым берагам Нёмана. Даследавалі ў 1971 Я. Г. Звяруга, у 1971 і 1980—83 М. А. Ткачоў, у 1980—81 І. М. Чарняўскі, у 1983 і 1987 А. М. Краўцэвіч, у 1987—90 Р. А. Акінчыц. Культурны пласт светла- і цёмна-шэры, залягае нераўнамерна: уздоўж вул. Замкавай ад 0,4—0,6 м да 2 м і больш, на падворку б. манастыра базыльянак 2 м, за Савецкай пл. (вул. К. Маркса) да 1,5 м, звычайна перамяшаны ў выніку інтэнсіўнага будаўніцтва ў 18 — пач. 20 ст. Самыя стараж. матэрыялы (фрагменты штрыхаванай керамікі пач. 1-га тысячагоддзя н. э.) выяўлены ў раёне касцёла бернардзінцаў. Участак на ПнУ ад дзядзінца (каля пажарнага дэпо) і Падол (цяпер вул. Падольная) заселены ў 11—12 ст. У раёне касцёла бернардзінцаў, каля пажарнага дэпо і на падворку манастыра базыльянак знойдзена кераміка 11 ст. На тэр. манастыра базыльянак выяўлены таксама рэшткі *Гродзенскай Прачысценскай царквы* (12 ст.). Не ўдалося вычленіць пласт 14 ст., што сведчыць аб заняпадзе жыцця ў гэты час з прычыны эпідэмій і частых войнаў з крыжакамі. У 16—17 ст. з З, Пн і У пасад абведзены гліняна-пясчаным валам, узведзены Віленская, Лідская (Смаленская) і Падольная брамы.

Сярод знаходак 16—18 ст. керамічны посуд (гаршкі, міскі, талеркі, кубкі, збаны, макотры і інш.), падсвечнікі, люлькі, скарбонка, маёлікавы посуд (талеркі, міскі, паўміскі), фаянсавыя талеркі з кобальтавай размалёўкай. Многа пячной кафлі: гаршковая з круглым вусцем (14—15 ст.), з прамавугольным вусцем (15—16 ст.), каробчатая з раслінным, геаметрычным, геральдычным арнаментам; тэракотавая, зялёнапаліваная і паліхромная. Вылучаецца кафля 2-й пал. 16 ст. з паглыбленай выявай шматпялёсткавай разеткі, каронка з выявай воіна канца 16 — пач. 17 ст. Трапляецца размаляваная кафля 18 ст. Знойдзены манеты 17 ст., цвікі, нажы, замкі, падкоўкі, ключы, вырабы са шкла (бутэлькі, бутлі, кварты, шкляніцы, чаркі, стопкі, келіхі).

Каложскі пасад знаходзіўся на высокім правым беразе Нёмана, на З ад Замкавай гары, быў аддзелены ад яе р. Гараднічанка. Даследавалі ў 1971—73 Звяруга, у 1983—84 А. А. Трусаў. Культурны пласт 0,4—2,2 м. Знойдзена кераміка 11 ст., скарб с.-г. прылад 13 ст. Выяўлены рэшткі зямлянкавых і паўзямлянкавых жытлаў з разваламі печаў-каменак. У 2-й пал. 12 ст. на пасадзе пабудавана *Гродзенская Барысаглебская царква*. На левым беразе Нёмана знаходзіўся Занёманскі пасад. Даследаваў у 1983 Ткачоў (праведзена шурфоўка ўздоўж вул. Дарвіна і каля касцёла францысканцаў). Самыя раннія знаходкі — ганчарная кераміка 15—16 ст., што сведчыць пра засяленне пасада з 15 ст.

*А. К. Краўцэвіч, М. А. Ткачоў.*

**ГРО́ДНА** (летапісны Городна, Городня, Городень), горад, цэнтр Гродзенскай вобл., на р. Нёман. Вузел чыгунак і аўтамабільных дарог, рачны порт, аэрапорт. Ключавы стратэгічны цэнтр Бел. Панямоння, буйны асяродак духоўнай культуры і эканомікі 10—18 ст.

Узнік у канцы 10 ст. на балцкай тэрыторыі як цэнтр усх.-слав. каланізацыі, ажыццёўленай дрыгавічамі і валынянамі. У 11—12 ст. заўважаюцца рысы культурных кантактаў з Мазовіяй. Дзядзінец займаў участак высокага правага берага р. Нёман каля сутокаў з ім правага

прытока — р. Гарадні (Гараднічанкі). Пляцоўка дзядзінца памерам 120×90×70 м, трохвугольная ў плане, была адрэзана ад берагавога плато невял. ровам (пазней расшыраны да 50 м). Археал. вывучэнне горада праводзілі Ю. Ядкоўскі (1932—33), З. Дурчэўскі (1937—39), М. М. Варонін (1949), Я. Г. Звяруга (1971—73), М. А. Ткачоў (1971, 1985—88), А. А. Трусаў (1977, 1981, 1983—89), А. К. Краўцэвіч (1986—89). Культурны пласт дзядзінца магутнасцю каля 8—10 м. Падзяляецца на 4 стратыграфічныя гарызонты. Верхні (ад сучаснай дзённай паверхні замкавага двара да брукаванай насцю да 7 м уяўляе сабой слой цёмна-шэрага і цёмна-карычневага грунту, насычанага грунтавымі водамі з высокай гідра- і аэраізаляцыяй, што вызначыла яго добрыя кансервавальныя якасці. У напластаваннях вылучаюцца праслойкі гною, лінзы чырвонай і жоўтай гліны, насычанасць карой, трэскамі, саломай. Тут выяўлены драўляныя збудаванні найлепшай захаванасці, а таксама большасць прылад працы, прадметаў побыту, узбраення, кераміка 10—17 ст. Культурны пласт мае нязначнае агульнае паніжэнне да цэнтра дзядзінца. Вылучаецца магутны слой 12 ст. (таўшч. больш



Медная пласціна алтарнай перагародкі з выявай святога Паўла 12 ст. з **Гродна**.

вымасткі 19 ст.) уяўляе сабой нівеліраваную падсыпку з буйнога рачнога пяску з праслойкамі грунту, бітай цэглы і буд. смецця. Другі магутнасцю 30—40 см уключае брукаваную вымастку з каменю дыям. 30—40 см, пабеленую вапнай, і пясчаную падсыпку. Трэці магутнасцю 30—50 см, светла-шэрага колеру, з вуглістымі праслойкамі, залягае пад пясчанай падушкай. Грунт вільготны, добра захоўвае прадметы арганічнага і неарганічнага паходжання, уключае косці жывёл, кераміку 16—18 ст., кавалкі дрэва і дошак, лінзы гліны, бітую цэглу, валуны, попел і інш. Чацвёрты магутза 3 м), насычаны слядамі мураванага будаўніцтва на дзядзінцы (цэгла, плінфа са знакамі на тарцах, шліфаваныя валуны, керамічныя паліваныя пліткі падлогі і фасада, вапна, пясок і інш.). Іх аналіз паказвае, што на дзядзінцы з 1130-х г. пастаянна вялося будаўніцтва мураваных аб'ектаў: *Гродзенскай Ніжняй царквы*, *Гродзенскага княжацкага палаца*, каменна-плінфавых абарончых сцен і вежаў. Найбольш масавыя знаходкі — керамічныя вырабы (больш за 3 тыс. фрагментаў). Самыя раннія з іх датуюцца рубяжом нашай эры і адносяцца да *штрыхаванай керамікі культуры*. Ёсць нешматлікія абломкі грубаляпнога посуду 6—8 ст.

Раннеганчарная кераміка прадстаўлена венчыкамі і сценкамі гаршкоў 10 ст., падпраўленымі на крузе. Яна зроблена з добра «адмучанай» гліны, мае звонкі і чырвоны ў зломе чарапок. Кераміка 11 ст. мае характэрнае дробнае рыфленне паверхні пасудзін і венчык з карнізікам. На донцах ёсць клеймы. Астатняя кераміка па структуры цеста і характары апрацоўкі падзяляецца на шэрагліняную, чырвонагліняную, дымленую, глянцаваную, абварную і паліваную, па функцыянальным прызначэнні — на кухонны, сталовы і тарны посуд. Кухонны ў асноўным сфармаваны з шэрай і чырвонай гліны, частка яго — абварны і дымлены, у т. л. гаршкі з накрыўкамі, макотры, рынкі (гліняныя патэльні на ножках). Сталовы посуд уключае збаны і талеркі. Арнаментацыя пасудзін разнастайная: шматрадная грабеньчатая хваля, рыфленне трэскай, геам. ўзоры, сетка, зігзаг, наколы, насечкі, штампаваны арнамент. Асаблівасцю мясцовай керамікі з'яўляецца ўпрыгожанне тулава гаршкоў накладным дэкарыруючым валікам, які аздабляўся штампаванымі ўзорамі ці косымі насечкамі ў выглядзе елачак. Сярод талерак 17—18 ст. ёсць глянцаваныя і чорнаглянцаваныя, з палівай зялёнага і салатавага колеру; некаторыя мелі падглазурную размалёўку і ангабіраваны раслінны ўзор, пакрыты палівай светлакарычневага колеру. Міскі пакрыты палівай і ўпрыгожаны па борціку падглазурнай размалёўкай. Большасць збаноў 17—18 ст. чорнаглянцаваныя, трапляюцца дымленыя і чырвонагліняныя 15—16 ст. Знойдзены таксама фрагменты амфар. тыглі 12 ст. трохвугольнай і гаршкападобнай формы са слядамі палівы. Сабрана больш за 2 тыс. фрагментаў кафлі рознага часу, розных форм і тыпаў: гаршковая 15—16 ст. з круглым і квадратным вусцем; каробчатая канца 16 — 1-й пал. 17 ст. (зялёныя, паліваныя і паліхромныя карычневыя экземпляры, некаторыя ўпрыгожаны раслінным, сюжэтным ці геам. арнаментам); «галандская» 2-й пал. 18 ст., з гладкай паверхняй, пакрытай светла-зялёнай палівай або малюнкамразмалёўкай. Сярод буд. матэрыялаў вылучаецца прамавугольная лякальная плінфа, на многіх тарцах якой выяўлены знакі. Знойдзены таксама галаснікі 12 ст. У культ. адкладах 13—17 ст. сабрана вял. колькасць буйнапамернай цэглы, у т. л. фасоннай і нервюрнай стрэлападобнай формы канца 14—1-й пал. 16 ст. На пасцелістым баку многіх цаглін ёсць неглыбокія прамыя або косыя баразёнкі. Сабрана каля 90 фрагментаў архіт.-дэкаратыўнай керамікі — плітак падлогі і фасадных 12 ст. (квадратныя з памерам боку 10,5 см, 11,5 см, 13 см, 13,5 см, 14,5 см і 16,5 см, круглыя, сегментападобныя, у форме паралелаграма, трапецыі, пялёсткападобныя), якія пакрыты палівай жоўтага, ярка-зялёнага, цёмна-зялёнага, карычневага і чорнага колеру; квадратныя паліваныя пліткі падлогі 16 ст., пакрытыя карычневай і зялёнай палівай. Знойдзена таксама некалькі тысяч фрагментаў дахоўкі: тыпу «бабровы хвост» (самая ранняя, 15 ст.), плоская з

круглаватай пяткай (канец 16—1-я пал. 17 ст.), хвалістая (18 ст.). Сярод знаходак шыферныя праслiцы, гліняныя грузілы ад рыбацкіх сетак, пясчанікавыя тачыльныя брускі, двухбаковыя грабяні, жорны дыскападобнай формы, кавалкі бурштыну, адходы касцярэзнай вытворчасці, касцяныя накладкі, двухбаковыя грабяні, шкляныя вырабы — пацеркі, бранзалеты (гладкія, вітыя, кручаныя зялёнага, аквамарынавага, карычневага, чорнага колераў), абломкі імпартнай шкляной пасудзіны са слядамі пазалоты, аконнае шкло 16—17 ст., фрагменты бутэлек, штофаў, аптэчны посуд. Пра пашыранасць ювелірнага



Гаршчок 12 ст. з раскопак на тэр. былога кляштара базыльянак. **Гродна.**



Надпіс на кавалку меднай пласціны 12 ст. з **Гродна.**



Карэц з **Гродна.** 14 ст.

ліцця сведчаць знаходкі 12 ліцейных формачак з вапняку і шыферу, тыгляўльячак, абломкаў літых алавяных упрыгожанняў. Вылучаюцца унікальныя знаходкі: шахматная фігурка-ладдзя з светлага каменю з 4 воінамі са шчытамі на ёй і бронзавы вадалей у выглядзе рыцара на кані. Пры раскопках Ніжняй царквы і каля яе знойдзены плоскія медныя пласціны (відавочна, рэшткі ўпрыгожанняў алтарнай агароджы храма) з гравіраванымі выявамі святых у медальёнах і абрамленнем у выглядзе арнаментальнай пляцёнкі, на якіх захаваліся сляды агнявога залачэння чырвоным золатам, абломкі званоў 12 ст. Знойдзена каля 2700 добра захаваных фрагментаў скураных дэталей абутку, паводле якіх можна адназначна вызначыць 4 віды абутку 11—16 ст.: поршні, башмакі, чаравікі і боты. Падэшвы — тупаносыя і вастраносыя гатычныя 15—16 ст., у т. л. дзіцячыя (15,5—17,5 см даўжынёй), жаночыя (17—21,5 см) і мужчынскія (23—30,5 см). Знойдзены передкі, заднікі, бакавыя дэталі-берцы, халявы, башмакі з суцэльнакроеным верхам без абцасаў. Сярод скураных вырабаў — кашалёк, фрагмент скуранoй сумкі, ножны, пляцёная плётка-бізун з сырамятных раменьчыкаў. Выяўлена шмат прылад працы: падоўжная піла, сякера, кельма 15—16 ст., сашнік, скобля, сярпы рус.-літ. тыпу, абломкі кос, некалькі дзесяткаў тронкавых нажоў, спружынныя і шарнірныя нажніцы, іголкі, шылы, бытавыя прадметы — крэсівы розных форм, цыліндрычныя замкі і іх дэталі, ключы, прабоі, цвікі. Знойдзены прадметы рыштунку конніка і каня (шпоры розных тыпаў, абломкі псалій, стрэмені, падпружныя спражкі і інш.), зброя (бронзавая булава, арбалетныя балты і наканечнікі стрэл, суліцы, коп'і і ўтулкі ад іх, панцырныя пласцінкі). Дзякуючы кансервавальным якасцям культ. напластаванняў дзядзінца тут збераглося шмат драўляных вырабаў: клёпкі рознай велічыні ад вёдзер, кадак, бочак, ражак, цэбраў, маслабоек; днішчы розных дыяметраў, цэлы разны коўш, точаныя міскі, кубкі, а таксама розныя ручкі, насценныя крукі для адзежы, рыдлёўкі, лыжка, калаўрот, верацяно, дэталі кроснаў, абутковыя калодкі, чакмары-ляскоткі, пранікі, двухбаковыя грабяні. Знойдзены высечаныя ў бярвёнах лесвіцы, берасцянка са знакам Рурыкавічаў на днішчы. Вывучаны 22 буд. ярусы; ускрыты жылыя гасп. пабудовы, 2 вулічныя маставыя, частаколавыя агароджы. Жылыя будынкі (памерам ад 3,4×3,4 і да 5,9×5,4 м) мелі глінабітныя з уключэннем камянёў печы на драўляных платформах. Зрубы вязаліся ў абло, ставіліся на розныя фундаментныя канструкцыі, мелі падлогі на лагах, якія шматразова перасціладіся. У пластах 13 ст. зафіксаваны пабудовы з брусоў. Гаспадарчыя пабудовы (хлявы, свірны, куратнікі, клеці) розных памераў узведзены «ў чашку», «у храпку», «у шулу», «у замёт» і абло; існавалі рамачна-стоечныя канструкцыі. Вулічныя маставыя шыр. 1,8—2,05 м масцілі з плах і дошак на 2—3 лагах. Археалагічныя матэрыялы сведчаць пра развіццё ворнага земляробства. Знойдзена зерне жыта, аўса, проса, грэчкі, пшаніцы, гарох, конскі боб. Аналіз касцей дзікай і свойскай жывёлы, птушак, рыб сведчыць, што ў горадзе трымалі буйную і дробную рагатую жывёлу, коней, свіней, сабак; палявалі на аленя, зубра, дзіка, касулю, лася, бабра, куніцу, выдру, барсука, зайца, зубра, мядзведзя, лісіцу, птушак — глушца, цецерука, лебедзя, гуся, лавілі разнастайную рачную рыбу, у т. л. балтыйскага асятра. У культурных напластаваннях 15—16 ст. шмат касцей дзікіх жывёл, што тлумачыцца ператварэннем замка ў рэзідэнцыю вял. князёў і каралёў, якія арганізоўвалі частыя прыёмы і паляванні для гасцей у навакольных пушчах. У 17 ст. такая функцыя замка знікла; адрадзілася толькі пасля пабудовы Новага замка.

Першае летапіснае ўпамінанне пра гарадзенскага князя адносіцца да 1116: кн. Уладзімір Манамах аддаў сваю дачку Агаф'ю за гарадзенскага кн. Усеваладку. Пад 1128 сказана, што кіеўскі кн. Мсціслаў паслаў супраць Полацка некалькі князёў,



Чорнаглянцаваная пасудзіна. **Гродна.** 17 ст.

сярод якіх быў і Усеваладка з Гародні. 1128 прыняты як афіцыйная дата заснавання горада. Зручнае геаграфічнае становішча спрыяла эканам. росту горада, ператварэнню яго ў рамесна-гандл. і культ. цэнтр княства. Да канца 12 ст. тут сфарміравалася самабытная *Гродзенская архітэктурная школа*, якая вызначалася адметнымі кампазіцыйнымі прыёмамі і буд. тэхнікай, надзвычай эфектным дэкорам вонкавай паверхні сцен збудаванняў. Да помнікаў гэтай школы адносяцца *Гродзенская Барысаглебская царква*, *Гродзенская Прачысценская царква*, *Гродзенская Ніжняя царква*, *Гродзенскія муры*, княжацкі церам і інш. З 1240-х г. Г. і Гродзеншчына ў складзе ВКЛ. Гарадзенскіх земляў дамагаліся галіцка-валынскія князі, іх войскі бралі горад у 1253 і 1259. У 1274 галіцкія князі разам з татарамі зрабілі чарговы паход на Г., але былі разбіты. З канца 13 ст. горад стаў аб'ектам нападаў з боку крыжакоў: яны хадзілі на Г. ў 1284, 1296, 1306, 1311, 1328, 1361, 1363,

1373, 1377, 1393, 1401. Напады спыніліся толькі пасля Грунвальдскай бітвы 1410. У 1314 гродзенцы на чале са старастам Давыдам Даўмонтавічам нанеслі паражэнне крыжакам пад Навагрудкам. У 11 ст. Г. мела два замкі: Верхні на месцы дзядзінца і Ніжні на *Гродзенскім акольным горадзе.* Побач фарміраваліся *Гродзенскія пасады.* Пасля 1385 на дзядзінцы збудаваны першы цалкам мураваны замак (гл. *Гродзенскі Стары замак*). Над руінамі Ніжняй царквы 12 ст. ўзведзена *Гродзенская Верхняя царква.* У канцы 14 — пач. 15 ст. вядомы таксама мураваная Васкрасенская царква, драўляныя касцёл і сінагога. З 1376 Г.— уладанне кн. Вітаўта, пры якім горад стаў другой сталіцай ВКЛ; атрымаў магдэбургскае права (у 1391 няпоўнае, у 1496 поўнае). З 1413 г. павятовы горад Трокскага ваяводства. У 15—17 ст. адбываўся рост тэр. горада. Цэнтр быў перанесены ад замка на гандл. плошчу з ратушай. Асновай планіровачнага развіцця Г. становяцца напрамкі 2 дарог: з Вільні і са Смаленска на Варшаву. У 1576—86 Г.— рэзідэнцыя караля Рэчы Паспалітай Стэфана Баторыя. Для размяшчэння караля і яго двара быў прыстасаваны Стары (Верхні) замак. У 1589—1795 цэнтр Гродзенскай эканоміі. З 16 ст. вядомы саборная царква, капліца на могілках, 2 мураваныя касцёлы (фарны і Св. Духа). Існавалі таксама цэрквы Праўдзівага крыжа і Мікалаеўская (драўляная), Траецкая (буд. матэрыял не ўстаноўлены). У апісанні да гравюры М. Цюнта (1567—68) упамінаюцца неўмацаваныя гар. брамы. Верагодна, яны былі мураваныя, як некаторыя корчмы, крамы і інш. На месцы Ніжняга замка размяшчаўся Каралеўскі дом, сюды была перанесена турма. У канцы 16 — пач. 17 ст. разгарнулася будаўніцтва мураваных касцёлаў і кляштараў каталіцкіх ордэнаў: у 1595 кляштара бернардзінцаў, у 1621 бернардзінак, у 1632 касцёла і кляштара дамініканцаў, у 1635 францысканцаў, у 1634 брыгітак, у 1647—63 езуіцкага касцёла, у 18 ст. ўзведзены кляштары кармелітаў і баніфратараў (драўляны). У 16 ст. Г. складалася з 2 частак: Старога горада на правым беразе Нёмана і невял. Новага горада на левабярэжжы; у горадзе было 28 вуліц, 12 пляцаў, насельніцтва каля 10 тыс. чалавек (канец 16—1-я пал. 17 ст.). У вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 заняты рускімі (1655—1657), у руска-шведскую 1656—58 — шведскімі войскамі, моцна разбураны. З 1678 у Г. праводзіліся сеймы Рэчы Паспалітай, для чаго тэрмінова быў збудаваны замак. У час Паўн. вайны 1700—21 Г. быў заняты (1702, 1705—08) і разбураны шведамі. Значна спустошаны пажарамі 1675, 1720, 1750, 1782.

У 1765—84 па ініцыятыве падскарбія ВКЛ А. Тызенгаўза праведзена вял. будаўніцтва ў сувязі з заснаваннем у Г. і ваколіцах каралеўскіх мануфактур. Былі адкрыты школа бухгалтэрыі, медыцынская акадэмія, школа землямераў з узорнай гаспадаркай, вучылішча будаўнікоў, кадэцкі корпус, фабрыкі — палатняныя, дывановыя, металічных вырабаў, экіпажаў, панчошная, карункавая, капялюшная, караляў, залатарская майстэрня і інш. У 1734—51 на месцы Ніжняга замка збудаваны каралеўскі палац (Новы замак) у стылі ракако (у 1789 рэканструяваны). У 1793 тут адбыўся т. зв. «нямы сейм»— надзвычайны апошні сейм Рэчы Паспалітай, які зацвердзіў 2-і падзел дзяржавы. Паводле 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) Г. ўключана ў склад Расійскай імперыі.

*Літ.*: 206, 437, 1204, 1226, 1444, 1485.
*М. А. Ткачоў, А. А. Трусаў, А. К. Краўцэвіч.*

**«ГРО́ДНЕНСКИЕ ГУБЕ́РНСКИЕ ВЕ́ДОМОСТИ»**, афіцыйная газета, якую выдавала Гродзенскае губернскае ўпраўленне ў Гродне з 7.1.1838 да 31.7.1815 на рус. мове. Выходзіла з дадаткамі адзін, з 1891 два, з 1899 чатыры разы на тыдзень, у 1-й пал. 1900 штодзённа, з чэрв. 1900 два разы на тыдзень. Змяшчала пастановы і распараджэнні цэнтр. і мясц. улад і інш. афіцыйныя матэрыялы. Мела неафіцыйную частку, якая ў 1903—06 вылучана ў асобнае выданне пад той жа назвай і выходзіла як штотыднёвы дадатак да асн. выдання. Дадатак змяшчаў матэрыялы па гісторыі, этнаграфіі, археалогіі губерні і Паўн.-зах. краю, справаздачы пра дзейнасць губернскага статыстычнага к-та, інфармацыю пра збор археал. звестак для Маскоўскага археалаг. т-ва. Сярод публікацый матэрыялы пра помнікі стараж. Навагрудка (1846. № 35, 36), Камянецкую вежу (1865. № 3; 1870. № 24), пра скопішча касцей мамантa, шарсцістага насарога і першабытнага быка, выяўленае ў мяст. Солы Гродзенскага пав. (1889. № 33), пра гарадзішчы каля в. Арэпічы Брэсцкага (1893. № 16) і Збуч Бельскага пав. (1893. № 19), групу археал. помнікаў каля в. Пыхаўць Гродзенскага пав. (1891. № 19), курганныя могільнікі ў Гродзенскім і Кобрынскім пав. (1891. № 55). Спробай стварэння археал. карты з'явіліся нарыс К. Міхайлоўскага пра помнікі Слонімскага пав. (1897. № 8) і нарыс з пералікам помнікаў Бельскага і Беластоцкага пав. (1892. № 42). Аддзел археал. хронікі рэгулярна друкаваў справаздачы пра раскопкі, у т. л. працу Л. Саланевіча з падрабязным апісаннем старaж. замкаў, каменных вежаў, цэркваў Гродзеншчыны (1902, № 28, 31, 32, 46, 47, 49—54).
*У. Дз. Будзько.*

**ГРО́НАЎ**, археал. помнікі каля в. Гронаў Чэрыкаўскага р-на.

С т а я н к а - 1. За 1 км на У ад вёскі, паміж вёскамі Гронаў і Вепрын, на пясчаным узгорку левабярэжжа р. Сож, ва ўрочышчы Строў. Выявіў у 1974 г. В. П. Траццякоў, даследавала 56 м² у 1975 А. Г. Калечыц. Культурны пласт 0,4 м.

У раскопе знойдзены 195 апрацаваных крамянёў, сярод іх — аднапляцовачныя нуклеусы, сякеры на масіўных асколках і з перахватам, цёслы, вуглавыя разцы, скоблі на адшчэпах, скрабкі, у т. л. канцавыя, ножападобныя пласціны з рэтушшу, наканечнікі стрэл і інш. З 267 фрагментаў ляпных пасудзін 13 ад гаршкоў эпохі позняга неаліту і ранняга бронзавага веку. Гэта танкасценная кераміка з унутранага і знешняга бакоў мае сляды расчосаў, зробленых зубчастым штампам. Арнаменты ў выглядзе разрэджаных гарызантальных радоў падвойных наколаў, уціскаled з папярочнымі перамычкамі, адбіткаў грэбеня і гарызантальных лапчастых адбіткаў, якія часам чаргуюцца з адбіткамі грэбеня. У гліне ёсць дамешкі жарствы і раслінных рэштак. Фрагменты пасудзін сярэднябронзавага часу ўпрыгожаны адбіткамі тонкага перавітага шнура, якія ствараюць рамбічны арнамент. Знаходкі 198 фрагментаў ляпных пасудзін сведчаць пра тое, што ў раннім жал. веку на месцы стаянкі існавала селішча зарубінецкай культуры.

С т а я н к а - 2 *верхнедняпроўскай культуры.* За 1 км на У ад вёскі, на тэрасе левага берага р. Сож, за 300 м на ПдУ ад стаянкі-1, ва ўрочышчы Курганне. Выявіў у 1974 Траццякоў, даследавала 140 м² у 1975 Калечыц. Культурны пласт да 1 м, што абумоўлена дэлювіяльным зносам культурных рэштак па схіле тэрасы.

Знойдзена 1465 крамянёў, з іх 348 маюць дадатковую апрацоўку, і 2177 фрагментаў ляпнога посуду. Сярод знаходак аднапляцовачныя нуклеусы, свярдзёлкі, скрэблы на круглаватых адшчэпах і краях пласцін, скоблі, сякеры, цёслы, праколкі, ромбападобныя і трохвугольныя наканечнікі стрэл (больш за ўсё скрэблаў, скобляў, вастрыёў і прылад, якімі секлі). Найбольшую колькасць складаў неалітычны посуд, які меў дамешкі пяску і раслінных рэштак у гліне і быў аздоблены адбіткамі грэбеня. Сярод інш. арнаментаў трапляліся ямкавыя адбіткі, трохвугольныя наколы і інш. З дапамогай гэтых элементаў ствараліся даволі складаныя арнаментальныя сістэмы — гарызантальныя, дыяганальныя, косыя, трохвугольныя і інш. Часта посуд упрыгожвалі адбіткамі не аднаго, а двух розных элементаў. Уся кераміка акругладонная з прамымі і адагнутымі вонкі венчыкамі, пад якімі па перыметры наносіліся ямкі. Невялікая колькасць адносіцца да ранняга і позняга бронзавага веку.




Грош. 1. Францыя: Людовік IX, 1266, г. Тур. 2. Саксонія: Фрыдрых I, каля 1320, г. Мейсен, 3—4. Сілезія: Сігізмунд I, 1506; Фрыдрых II, 1544. 5. Польшча. Жыгімонт I Стары, 1538, г. Гданьск. 6—7. Рэч Паспалітая: Стэфан Баторый, 1579, г. Гданьск; Зыгмунт III Ваза, 1627, г. Гданьск. 8. Прусія: Альберт II, 1537. 9—10. Расія: Пётр I, пробная манета 1724; Кацярына I, пробная манета 1727.




**Грош літоўскі.** ВКЛ: 1. Жыгімонт I Стары, 1536; 2, 3. Жыгімонт II Аўгуст, 1546 (чаканены па польскай манетнай стапе), 1555. Рэч Паспалітая: 4. Стэфан Баторый, 1580; 5—8. Зыгмунт III Ваза, 1607, 1608, 1612, 1627; 9. Ян II Казімір Ваза, 1652.

Стаянкі каменнага веку выяўлены на ўсх. ускраіне вёскі і ва ўрочышчы Града.

*Літ.*: 479. *А. Г. Калечыц.*

**ГРОШ** (лац. Grossus вялікі ад Nummus grossus манета вялікая, Denarius grossus дэнарый вялікі), 1) буйная сярэбраная манета, роўная некальнім дэнарыям. Выраблялася ў Італіі (з 1172 у Генуі, з 1182 у Фларэнцыі, каля 1200 у Венецыі). Агульнаеўрап.распаўсюджанне атрымаў турноз (*метрычная проба* 958, *лігатурная маса* 4,80), з 1266 у Францыі (Г. г. Тура) і стаў метралагічным і якасным эталонам для Г. некаторых дзяржаў Паўн. Еўропы (Нідэрланды, Германія). Каля 1300 чаканка пачата ў Чэхіі (гл. *Грош пражскі*), з 1329 — у Венгрыі, каля 1339 у Саксоніі, каля 1337 — у Польшчы (гл. *Грош кракаўскі*), з 1535 у ВКЛ (гл. *Грош літоўскі*). З 18 ст. адначасова чаканілі і медныя Г. 2) Медны намінал, парытэтны 2 *капейкам* або 4 *дзенгам*, выпушчаны дзенежнымі дварамі Масквы (1654) і Пскова (1655). 3) *Манета пробная* Расіі, якая адпавядала 2 капейкам: сярэбраны Г. 1727 (*залатніковая проба* каля 48 і каля 12, лігатурная маса 0,55 і 1,12), медны 1724 і 1740 (маса 20,48 г). 4) Сярэбраныя наміналы, выпушчаныя для рускай арміі (гл. ў арт. *Манеты расійскія для Прусіі*). 5) Лікава-грашовае панящце для найб. дробных манет у ВКЛ і Польшчы ў 14—16 ст., Рэчы Паспалітай у 16—18 ст. 6) Папулярная на Беларусі, Украіне і ў Расіі назва манеты ў *дзве капейкі* (18 ст.—1830-я г.) і паўкапейкі (з 1840-х г.). 7) *Манеты двухмоўныя* руска-польскія 1834—41 і разменны Г., выпушчаны *Варшаўскім манетным дваром* у 1835—41.

*Літ.:* 1604, 1620, 1693. *В. Н. Рабцэвіч.*

**ГРОШ ВУ́ЗКІ,** грош звужоны, папулярная назва ў 16 ст. *гроша польскага.*

**ГРОШ КРА́КАЎСКІ** (лац. grossi cracovienses), польская сярэбраная манета (*метрычная проба* каля 775, *лігатурная маса* каля 3,20 г). Выпускаў манетны двор Кракава ў 1337—47. З'яўляўся тыпалагічным перайманнем (гл. *Манета-пераймание*) *гроша пражскага*, ад якога знешне адрозніваўся легендай і выявай на рэверсе аднагаловага польскага арла замест «багемскага» льва.

*Літ.*: 1693.

**ГРОШ ЛІТО́ЎСКІ,** білонная манета ВКЛ.

Чаканілі: *Віленскі манетны двор* пры Аляксандры Ягелончыку [1492—1501] — даты выпуску, метралагічныя і якасныя паказчыкі невядомы, у 1535—36 (*лотавая проба* VI, *лігатурная маса* 2,57 г), 1545, 1546, 1555—57 (проба VI, маса 2,5 г), 1559 (проба V $^{1}/_{2}$, маса 2,5 г), 1580, 1581 (проба V $^{3}/_{4}$, маса 1,86 г), 1607—15 (проба V $^{3}/_{4}$, маса 1,58 г), 1625—27 (проба IV $^{1}/_{2}$, маса 1,04 г), 1652 (проба VII, маса 0,62 г); Тыкоцінскі манетны двор у 1566 (проба V $^{1}/_{2}$, маса 2,5 г). Да 1578 парытэтны 10 *пеняззям.*

У бел. пісьмовых крыніцах 16 ст. называўся грошам пенязным або пляскатым.

*Літ.*: 1671, 1735.

**ГРОШ ЛЯ́ДСКІ,** малаўжывальная назва гроша польскага ў 16 ст.

**ГРОШ ПАТРЫГРО́ШНЫ,** назва манеты наміналам у *тры грошы* ў велікакняжацкім указе 1562 Жыгімонта II Аўгуста.

**ГРОШ ПАШО́СНЫ,** назва манеты наміналам у *шэсць грошаў* у велікакняжацкім указе 1562 Жыгімонта II Аўгуста.

**ГРОШ ПЕ́НЯЗНЫ,** адна з папулярных назваў у 16 ст. *гроша літоўскага.*

**ГРОШ ПЛЯСКА́ТЫ,** адна з назваў *гроша пражскага* ў 16 ст. і *гроша літоўскага* ў 2-й пал. 1530-х г.

**ГРОШ ПО́ЛЬСКІ,** білонная або медная манета Польшчы.

Білонны Г. п. выпускалі: Кракаўскі манетны двор у 1526—29, 1545—48 (*лотавая проба* VI, *лігатурная маса* 2,06 г), 1600—01, 1603 (проба V $^{3}/_{5}$, маса 1,86 г), 1604—17 (проба V $^{3}/_{4}$, маса 1,55 г), 1623—27 (проба IV $^{1}/_{2}$, маса 1,03 г); *Віленскі манетны двор* у 1546—48, 1566—68 (проба V $^{1}/_{2}$, маса 2 г); Олькушскі манетны двор у 1579 (проба VI, маса 1,67 г), 1580—82, 1593, 1594, 1597, 1598, 1600, 1601 (проба V $^{3}/_{5}$, маса 1,86 г); Мальбаргскі манетны двор у 1584 (проба V $^{3}/_{5}$, маса 1,86 г); Быдгашчанскі манетны двор у 1596, 1598, 1599 (проба V $^{3}/_{5}$, маса 1,86 г), 1608—14 (проба V $^{3}/_{5}$, маса 1,55 г), 1623—25, 1627 (проба IV $^{1}/_{2}$, маса 1,03), 1650, 1666 (проба VII, маса 0,62 г); Люблінскі манетны двор у 1597, 1598 (проба V $^{3}/_{5}$, маса 1,86 г); Пазнанскі манетны двор у 1597—1601 (проба V $^{3}/_{5}$, маса 1,86 г); Усхоўскі манетны двор (адзнакі двароў гл. ў арт. *Манетныя двары Рэчы Паспалітай*) у 1650 (проба VII, маса 0,62 г); *Варшаўскі манетны двор* у 1766—68, 1772—82 (проба V $^{8}/_{9}$, маса 1,99 г). Медны Г. п. выпускалі: Губенскі манетны двор (адзнакі двара гл. ў арт. *Манетныя двары Саксоніі*) у 1752—55, 1758 (маса 3,69 г); Кракаўскі манетны двор у 1765—68 (маса 3,89); Варшаўскі манетны двор у 1765—95 (маса 3,89 г), 1810—12, 1814, 1815—26, 1828—41 (маса 2,86 г). Да 1578 парытэтны 8 *пеняззям.*



**Грош польскі.** 1. Жыгімонт І Стары, 1546; 2. Стэфан Баторый, 1580; 3, 4. Зыгмунт III Ваза, 1605, 1611; 5. Аўгуст III, 1757; 6, 7. Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, 1765, 1766.



**Грош кракаўскі** 1337—47, Казімір III.

У бел. пісьмовых крыніцах 16 ст. Г. п. называлі грошам вузкім (звужоным), лядскім або пляскатым, 16— пач. 18 ст.— *асмак.*

*Літ.*: 1585, 1671, 1682, 1695. *В. Н. Рабцэвіч.*

**ГРОШ ПРА́ЖСКІ** (лац. grossi pragenses), чэшская сярэбраная манета (*метрычная проба* каля 930, *лігатурная маса* каля 3,86 г).

Вырабляўся манетным дваром Кутна Гора з пач. 14 ст. да пач. 15 ст. Напачатку быў роўны 12, потым 16, а з 1398—18 дэнарыям. Дзякуючы высокай якасці

і масавай эмісіі адразу распаўсюдзіўся ў Еўропе. У ВКЛ 14—15 ст. складаў аснову грашовай гаспадаркі, таму гэты час у нумізматыцы Беларусі азначаны як «перыяд пражскага гроша».

У бел. пісьмовых дакументах Г. п. называецца чэшскім, шырокім, пляскатым або проста грошам. Сустракаецца ў скарбах Беларусі, ухаваных нават у 16 і 17 ст.

*Літ.*: 1585, 1693.

**ГРОШ ХОДЗЯЧЫ,** назва *гроша пражскага*, зафіксаваная ў бел. пісьмовай крыніцы ў 1498.

**ГРОШ ЧЭСКІ**, адна з назваў *гроша пражскага* ў бел. пісьмовых крыніцах канца 14— пач. 17 ст.

**ГРОШ ШЫРОКІ,** адна з пашыраных у канцы 14—16 ст. назваў *гроша пражскага.*

**ГРОШЫ**, своеасаблівы тавар, які выражае вартасць усіх тавараў і з'яўляецца ўсеагульным эквівалентам, сродкам абмену. Выражаюць вытворчыя адносіны ў грамадстве. Прырода іх мяняецца ў залежнасці ад спосабу вытворчасці, які яны абслугоўваюць.

Спачатку ролю Г. выконвалі пэўныя тавары: збожжа, *грошы-жывёла*, соль, футра пушнога звера (напр., *Вевярыца*), пэўныя віды ракавін марскіх малюскаў *(кауры)* і інш. Калі выраб тавараў на продаж павялічыўся і абмен выйшаў за мясц. рамкі, узнікла неабходнасць ва ўсеагульным эквіваленце, роля якога замацавалася за высакароднымі металамі — золатам і серабром (гл. *Біметалізм, Монаметалізм).* З'яўленне металічных Г. усталёўвае іх асн. функцыі: мера вытворчасці, здольная ацаніць любы тавар; роля пасрэдніка пры абмене тавараў; сродак назапашвання, стварэння грашовых запасаў (*Скарб манетны*); сродак плацяжу (ліхвярства, падаткі); сусветныя Г.— свабоднае абарачэнне за межамі сваёй краіны. Металічныя грашовыя адзінкі напачатку супадалі па назве і масе з вагавымі адзінкамі металу (*грыўня, грыўня польская, марка*). З узнікненнем манеты гэты парытэт парушаецца: вагавая колькасць металу ў наміналах звычайна памяншаецца і іх рэальная вартасць становіцца ніжэй цаны тавараў. Сродкі грашовага абарачэння набываюць сімвалічны характар. Гэты працэс дасягае апагея ў 2-й пал. 18 ст., калі ў дзяржавах Еўропы з'явіліся папяровыя грашовыя знакі — *асігнацыі.*

*В. Н. Рабцэвіч.*

**ГРОШЫ АДЛІЧОНЫЯ**, пенязі адлічоныя, рукамі адлічоныя, панящце, якое ў 16—17 ст. вызначала грашовую суму ў рэальнай манеце. Гл. ў арт. *Гатавізна.*

**ГРОШЫ ГАТОВЫЯ**, пенязі гатовыя, панящце, якое ў канцы 15—18 ст. вызначала грашовую суму ў рэальнай манеце. Гл. ў арт. *Гатавізна.*

**ГРОШЫ ПРЫНЕСЕНЫЯ,** грошы паднесеныя, пенязі прынесеныя, пенязі паднесеныя, панящце, якое ў 2-й пал. 16 ст. вызначала грашовую суму ў рэальнай манеце. Гл. ў арт. *Гатавізна.*

**ГРОШЫ РУКАЁМНЫЯ,** грошы рукададзеныя, грошы рукадайныя, пенязі рукаёмныя, пенязі рукададзеныя, пенязі рукадайныя, панящце, якое ў 16—1-й пал. 18 ст. вызначала грашовую суму ў рэальнай, манеце. Гл. ў арт. *Гатавізна.*

**ГРОШЫ-ЖЫВЁЛА**, універсальны плацежны сродак у выглядзе свойскай жывёлы, у стараж. часы характэрны амаль усім народам.

Перыяд панавання Г.-ж. адлюстраваны ў лексіцы шматлікіх моў, калі адным словам вызначаюцца панящці «жывёла», «маёмасць», «багацце», «грошы». У рымлян было некалькі вытворных ад слова «pecus» (жывёла) тэрмінаў: pecunia (маёмасць, грошы, багацце, манета), pecuniosus (багаты, заможны чалавек). Адпаведная з'ява заўважаецца ў мовах гоцкай (skattus жывёла, маёмасць), англасаксонскай (skat жывёла, багацце, манета), фрызскай (sket жывёла, грошы), нямецкай (schatz жывёла, скарб). Слова «капітал» паходзіць ад лац. caput (галава жывёлы). У стараж.-рус. (у т. л. і беларускай), польскай, балгарскай, лужыцкай і іншых слав. мовах слова «скот» абагульняла панящці «свойская жывёла», «маёмасць», «падатак», «грошы». Рускае «добыча», бел. «здабытак», «быдла», польскае «bydło» «dobytek», чэшскае «dobytek», балгарскае «добитькъ», сербскае «добытькъ» першапачаткова абазначалі панящці «жывёла», «маёмасць», «грошы». Бел. і рус. «статак» выступала сінонімам слоў жывёла, маёмасць, багацце, а вытворнае ад яго бел. «дастатак» сінонім заможнасці, дабрабыту. Першапачатковае значэнне бел., укр. «худоба» і польскага chudoba адпавядала не толькі слову «жывёла», а і маёмасць, багацце. З павелічэннем вырабу тавараў і пашырэннем абмену за мясц. рамкі ўзнікла неабходнасць ва ўсеагульным эквіваленце (гл. ў арт. *Грошы*). Г.-ж. ў асобных рэгіёнах зямнога шара ўжываюцца і цяпер.

*Літ.*: 1585. *В. Н. Рабцэвіч.*



**Грош пражскі.** Чэхія (каралеўства), Вацлаў II, 1300—05.

**ГРУЗІКІ,** гліняныя вырабы разнастайнай формы, найчасцей з адтулінай усярэдзіне, якія выкарыстоўваліся ў ткацкай справе і, магчыма, у культавых мэтах. Трапляюцца на помніках *мілаградскай культуры.* Г. выраблялі з пластычных гідраслюдзістых глін, у якія дадавалі жарству і шамот. Сярэдняя велічыня большасці Г. 2,5—3,5 см.

Паводле формы бываюць ражковыя (крыжападобныя, 5- і 6-канцовыя), пасудападобныя (з круглаватым тулавам і донцам, з завостранай ніжняй часткай і грушападобныя), біканічныя (сіметрычныя, асіметрычныя і ўсечаныя), цыліндрычныя (з увагнутай сярэдзінай, з выгінам пасярэдзіне і пляскатыя), круглаватыя (шарападобныя і эліпсападобныя), канічныя (конусападобныя і ўсечана-канічныя), шпулепадобныя. Даследчыкі прапанавалі некалькі спосабаў выкарыстання Г.: для нацягвання нітак асновы ў вертыкальных ткацкіх станках; для прадзення з дапамогай верацёнаў, дзе яны выконвалі ролю махавічкоў; для нацягвання нітак у станках з гарызантальнай асновай і інш. Частка Г. упрыгожана ямкавым, кропкавым і наразным арнаментам. У малюнках заўважаецца ўстойлівасць геам. узораў, якія ў некаторай ступені адлюстроўваюць светапогляд людзей таго часу. Сярод малюнкаў ёсць ідэаграмы сонца: абапал адтуліны выявы 1, 2 або 3 кругоў з уціснутых ямак, рысак, прарэзаных раўкоў; на некаторых Г. радыяльныя промні разыходзяцца ад адтуліны ці ад занальных кольцаў. Сімвалы агню — крыжы — наносілі вакол восі, крыжападобна размешчаныя рыскавыя ўціскання мелі максімальнае пашырэнне, многія былі крыжападобнай формы. Заштрыхаваныя крыжы ў крузе або крыжы на заштрыхаваным полі і адпаведна трохвугольнікі, ромбы даследчыкі часта разглядаюць як праяўленне культу ўрадлівасці. Арнаменты на Г. сведчаць, што насельніцтва мілаградскай культуры пакланялася сонцу, агню і ўрадлівасці. Узоры малюнкаў сведчаць пра іх цесную сувязь і падпарадкаванне гал. мэце — ідэі ўрадлівасці. Гэтым тлумачыцца ўстойлівасць стараж. узораў на Г.

*Літ.*: 650, 653, 772. *М. І. Лашанкоў.*

**ГРУЗІЛА,** рыбалоўная прылада, якая прымацоўвалася да рыбалоўных сетак і лёскі вуд для пагружэння іх у ваду. Вядома з эпохі неаліту. Выраблялі, як правіла, з гліны, радзей з каменю; мелі ядрападобную, цыліндрычную, біканічную ці пляскатую форму. У гліняных Г. рабілі адтуліну, потым абпальвалі выраб на вогнішчы або ў горне. Рыбалоўныя Г.— частыя знаходкі пры археал. даследаваннях помнікаў неаліту, бронзавага і жал. вякоў. У Віцебску знойдзены таксама гліняныя Г. 10—11 ст. для вертыкальнага ткацкага станка дыям. 12 см з адтулінай дыям. 2 см.

**ГРЫВЕНКА,** скалавая грывенка (ад «скалвы» — вагі), адзінка вагі ў 204, 756 г, пакладзеная ў аснову рус. грашовай вытворчасці ў 15— пач. 18 ст. Складалася з 48 златнікоў (па 4,266 г) або 1200 почак (па 0,171 г). У пач. 18 ст. заменена фунтам (409, 512 г).

**ГРЫВЕННІК,** грыўня, 1) руская манета коштам парытэтная *дзесяці капейкам.* Уведзена *грашовай рэформай Пятра І.*

Адзнака наміналу **«Гривенникъ»** (серабро): Красны або Кадашаўскі манетныя двары ў 1701—02, 1704 (***залатніковая проба*** каля 77, ***лігатурная маса*** каля 2,8 г); Кадашаўскі манетны двор — 1704—05 (проба каля 77, маса каля 2,8 г), 1707, 1709 (проба каля 84, маса каля 2,8 г), 1710—13 (проба каля 72, маса

каля 2,80 г); Пецярбургскі манетны двор — 1741 (проба 72, маса 2,59 г), 1764—75, 1777, 1796 (проба 72, маса 2,37 г); нявызначаныя двары — 1742—45 (проба 72, маса 2,59 г), 1746—51 (проба 77, маса 2,42 г), 1764—66 (проба 72, маса 2,37 г). Адзнака наміналу **«Гривенникъ»** і 10 рэльефных кропак (серабро): Красны або Кадашаўскі манетныя двары — 1718—20 (у выпуску 1718 ёсць манеты з наміналам **«Грівеньнікъ»**), 1723 (проба 70, маса 2,84 г); нявызначаныя двары — 1731—35 (проба 77, маса 2,59 г). Адзнака наміналу **«Гривна»**: Екацярынбургскія казённыя горныя заводы — 1725—26 (163,8 г, медная квадратная кліпа); Екацярынбургскі манетны двор 1727 (163,8 г, медная квадратная кліпа); Красны манетны двор — 1704—05 (серабро, проба каля 77, маса каля 2,80 г). Адзнака наміналу **«Гривна»** і 10 рэльефных кропак (серабро): Пецярбургскі манетны двор — 1726—27 (проба 42 і ніжэй, маса каля 2,66 г).

2) Папулярная назва меднай 3-капеечнай манеты пасля грашовай рэформы 1839—43 наміналам у дзесяць капеек.

*Літ.*: 1615, 1620. *В. Н. Рабцэвіч.*

**ГРЫЎКОВІЧЫ,** паселішча каля в. Грыўковічы Пінскага р-на. Размешчана за 150 м на ПдЗ ад вёскі, на ўзвышшы ў пойме р. Стыр. Памеры 300×100 м. Адкрылі ў 1987 А. А. Егарэйчанка і А. В. Іоў, даследаваў 248 м² у 1987—88 Іоў. Культурны пласт 0,4—0,8 м.

Знойдзены крамянёвыя сякера, наканечнікі стрэл і дроцікаў, рагавыя наканечнік дроціка і цясла, ляпная кераміка (5—2-е тысячагоддзі да н. э.), фрагменты керамічнага посуду (канец 10—13 ст.), дужка цыліндрычнага замка, кавалак шклянога бранзалета, шкляныя пацеркі, каменны крыж-карсунчык.

Функцыяніравала з часоў неаліту да позняга сярэднявечча.

**ГРЫЎНЯ,** вагавая, лікавая і грашовая адзінка, назва якой паходзіць ад упрыгожання — *грыўні шыйнай,* якая бытавала ў Стараж. Русі. Грыўня серабра — вагавая адзінка масай 204,756 г. 2) Тое, што *грыўня кун.* 3) Сярэбраны *злітак плацежны,* грашовая адзінка 11—15 ст. На зах. землях Русі вядомы тры віды: літоўская, або заходнеруская 13—15 ст. (ізрой),— палачкападобная (звычайна з адной або некалькімі ўвагнутасцямі на «спінцы», 10—15 см, 100—105 г), кіеўская (ромб з усечанымі вострымі вугламі, 9—10×4—5 см, 140—165 г), наўгародская лодкападобная (выгнуты ў сярэдзіне брусок, 14—20 см, каля 204 г). Абарачаліся таксама палавінныя абрубкі літоўскіх і наўгародскіх Г.— зліткаў — *палціны* (гл. *Вішчынскі грашова-рэчавы скарб*).

*Літ.*: 1591, 1640, 1647, 1686. *В. Н. Рабцэвіч.*

**ГРЫЎНЯ КУН,** лікава-грашовая стараж.-рус. адзінка, блізкая да *маркі* Сярэдняй і Паўн. Еўропы. Адпавядала пэўнай колькасці манет — куфіцкіх *дырхемаў, міліярысіяў, срэбранікаў.* Напачатку, напэўна, супадала з вагавой *грыўняй* серабра. У выніку складаных працэсаў развіцця грашовай сістэмы, якая грунтавалася на securing манетах (дырхем, *дэнарый*), гэтая парытэтнасць парушаецца, у 12 ст. суадносяцца як 4:1. У 11 ст. Г. к. была роўная 20 *нагатам,* 25 *кунам,* 50 *разанам,* у 12 ст.— 25 нагатам, 50 кунам, складала чвэрць грыўні рускай (каля 51 г).

*Літ.*: 1591, 1615, 1640.

**ГРЫЎНЯ ЛІКАВАЯ** р у с к а я, грашовая адзінка, якая адасобілася ў канцы 14 ст. ад вагавой *грывенкі.* У 15 ст. бытавалі Г. л. маскоўская (20 дзенег) і наўгародская (14 дзенег). Пасля рэформы 1533—35 устанавілася агульнаруская Г. л., роўная 20 дзенгам-маскоўкам (шабляні-



**Грывеннік.** 1—5. Пётр I, 1701, 1704, 1705, 1713, 1718; 6. Кацярына I, 1726; 7. Ганна Іаанаўна, 1739; 8. Іаан Антонавіч, 1741; 9. Лізавета Пятроўна, 1757; 10. Кацярына II, 1778.

цам) або 10 дзенгам-наўгародкам (*капейкам*). Ужывалася да пач. 18 ст.

**ГРЫЎНЯ ПОЛЬСКАЯ** (лац. marca ponderis Polonicalis марка вагавая польская; польск. grzywna грыўня), 1) грашова-вагавая адзінка ў выглядзе германскай маркі (маса каля 210 г), прынятая ў Польшчы каля 1170.

У 14 ст. з паніжэннем вагі да 204 г абарачалася ў выглядзе розных лакальных вагавых грыўняў: кракаўскай (лац. marca ponderis Kracowiensis марка вагавая кракаўская, найб. распаўсюджаная), куяўска-мазавецкай, сандамірскай, вроцлаўскай, свідніцкай, пазнанскай, гнезненскай і інш. Г. п. адпавядала 4 фертонам, 24 скойцам, 96 *квартнікам*.


**Грыўня шыйная** 7—10 ст. балцкага тыпу і пярсцёнак, знойдзеныя каля в. Гарадок Маладзечанскага р-на.

2) Грашова-лікавая адзінка Польшчы (лац. marca numeri Polonicalis марка ліку польскага); на Беларусі і Украіне бытавала як вартасны эквівалент 48 *грошаў пражскіх* (14—пач. 16 ст), 48 *грошаў польскіх* або 39,4 *гроша літоўскага* (16—17 ст.).

*Літ.*: 1671, 1693. *І. Ф. Масько.*

**ГРЫЎНЯ ШЫЙНАЯ**, упрыгожанне накшталт абруча з бронзы, білону, серабра, якое насілі на шыі (па-стараславянску — грыве). Вядома з 2-га тысячагоддзя да н. э., на Беларусі з ранняга жал. веку, найб. распаўсюджана ў 9—13 ст. Большасць Г. ш., выяўленых на Беларусі, знойдзены ў курганах, належаць балтам (*Лясная, Казлоўцы, Укля* і інш.). Ёсць і славянскія Г. ш.

Падзяляюцца на пласціністыя (арнаментаваны косымі крыжыкамі, ромбамі, трохвугольнікамі з насечак і елачак, часта з прымацаванымі трапецападобнымі падвескамі) і вітыя (з чатырохграннымі, конуса- і петлепадобнымі, пласціністымі, Т-падобнымі канцамі). Залатыя і сярэбраныя Г. ш. былі адзнакай улады (знойдзены ў 1960-х г. і 1980 у *Казярожскіх рэчавых скарбах*.

*Літ.*: 687, 1088. *Л. У. Дучыц.*

**ГРЫЧЫНА**, група археал. помнікаў каля в. Грычына Дзяржынскага р-на. Уключае 6 курганных могільнікаў і 2 селішчы. Могільнікі абследавалі ў 1930 А. Рынейскі, у 1976 Ю. А. Заяц, селішчы — у 1987 Заяц.

Курганны могільнік-1. У вёсцы, на могілках. 18 насыпаў (былў 21) выш. 0,5—2,5 м, дыям. 5—14 м. Курганы пашкоджаны сучаснымі магіламі.

Курганны могільнік-2. За 1,5 км на У ад вёскі, за 200 м злева ад дарогі ў в. Цімошкі, у полі. 7 насыпаў выш. 2—3,2 м, дыям. 10—19 м. 2 курганы моцна пашкоджаны, выш. 1,3 і 1,5 м. У частцы насыпаў вяршыні пласкаватыя.

Курганны могільнік-3. На паўд.-ўсх. ускраіне вёскі, з правага боку ад дарогі ў в. Марыпаль. 2 насыпы выш. 1,6 і 3 м, дыям. 10 і 17 м

Курганны могільнік-4. На паўд.-зах. ускраіне вёскі, за 300 м справа ад дарогі ў в. Віцкаўшчына. 6 насыпаў, 3 з іх моцна пашкоджаны. Адзін курган прадаўгаваты, памерам 21,5×9,5×2,2 м, астатнія круглыя, дыям. 6,5 і 12,5 м, выш. 1,5 і 1,6 м. Могільнік знішчаны ў пач. 1980-х г.

Курганны могільнік-5. За 2 км на ПнЗ ад вёскі, за 640 м злева ад дарогі на в. Фаніпаль, у лесе, ва ўрочышчы Лявонаўка. 3 пашкоджаныя насыпы выш. каля 2,5 м, дыям. 11—13,5 м.

Курганны могільнік-6. За 1,7 км на ПнЗ ад вёскі, за 750 м ад дарогі на в. Фаніпаль, ва ўрочышчы Пакацічы. 23 насыпы, якія ўтваралі 2 асобныя групы за 36 м адна ад адной. Паўд. група складалася з 12 курганоў круглай, авальнай і прадаўгаватай формы, паўночная — з 11 насыпаў круглай, авальнай і чатырохвугольнай формы. Выш. круглых курганоў 0,5—1,5 м, дыям. 3,5—11,5 м, памеры авальных ад 7,5×6,4 да 13,6×11 м пры выш. 1—2,2 м; чатырохвугольныя насыпы памерам 14×11×1,3 і 14,5×12×2,5 м, прадаўгаваты — 17×6,5×1,2 м. У канцы 1970-х г. 7 насыпаў знішчаны, астатнія ў рознай ступені пашкоджаны. У 1986 тры курганы даследаваў Заяц. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на мацерыку, у 2 выпадках — на попельнай пляме ад рытуальнага вогнішча, галавою на У і на З. Знойдзены фрагменты ганчарнага посуду, пацеркі сердалікавыя 14- і 8-гранныя прызматычныя, шкляныя лімонападобныя паласатыя і лімонкі. Датуецца 10—11 ст.

Селішча-1. За 1,6 км на ПнЗ ад вёскі, за 300 м на ПнУ ад могільніка-6. Значна пашкоджана меліярацыйнымі і с.-г. работамі. Раскопкі не праводзіліся. Знойдзены фрагменты глінянага посуду 10—11 ст., тачыльны брусок.

Селішча-2. У паўд. частцы вёскі. Раскопкі не праводзіліся. Сабраны матэрыялы 16—18 ст.

*Літ.*: 420, 1022, 1362. *Ю. А. Заяц.*

**ГРЭБЕНЬ**, 1) прылада для расчэсвання валасоў, сколвання і ўпрыгажэння прычоскі. Рабіліся з рога, косці, дрэва. Вядомы антычныя Г. з каляровых металаў.

Найб. раннія касцяныя Г. выяўлены на помніках ранняга жал. веку (мяжа новай эры): адзін з 3 вушкамі для падвешвання (па форме нагадвае круг са зрэзаным краем, спінка ўпрыгожана цыркульным арнаментам) з раскопак гарадзішча *Лабенщчына* і тры (па форме нагадваюць капялюшык з адагнутымі бакавымі канцамі (з селішча *Прудннікі*). Мініяцюрныя Г. насілі ў складзе караляў. Касцяныя Г. 10—13 ст. з больш дасканалымі формамі выяўлены пры раскопках амаль усіх бел. гарадоў. Аднабаковыя Г. бытавалі ў 10—11 ст., часцей былі наборнымі (складаліся з некалькіх пласцін, злучаных вузкімі накладкамі, змацаванымі меднымі штыфтамі), даўж. 11—13 см, змяшчаліся ў касцяным футарале. Спінкі ўпрыгожаны цыркульным або рамбічным арнаментам у спалучэнні з папярочнымі лініямі на канцах накладак. Двухбаковыя Г. былі 2 тыпаў: прамавугольныя састаўныя (складаліся з 2 аднабаковых, змацаваных як і на-


Касцяны **грэбень** 10—13 ст. Полацк.


Касцяны футарал для **грэбеня**. 10 ст. Полацк.

борныя) і трапецападобныя суцэльныя (з аднаго боку частыя зубчыкі, з другога — рэдкія), даўж. 8—9, шыр. 5—6 см. У 13— пач. 14 ст. найбольш пашыраныя былі драўляныя (самшытавыя) прамавугольныя Г., даўж. 6—8 см, шыр. 7—9 см, з роўнымі і ўвагнутымі бакамі. Спінкі іх упрыгожвалі цыркульным і вочкавым арнаментам. Выяўлены Г. з выявамі грыфонаў і барсаў (Віцебск, Мінск), з азбукай (Брэст). У 13—16 ст. пераважаюць зноў касцяныя Г. прамавугольнай формы, памеры 5×5—6×7 см.

2)Прылада для часання льнянога валакна з доўгім або кароткім дзяржаннем. Лапатападобны драўляны Г. 13 ст. знойдзены ў Полацку.

*Літ.*: 424, 425, 703, 1347.

*Л. У. Калядзінскі, Г. В. Штыхаў.*

**ГРЭ́БЕНЬ,** курганны могільнік дрыгавічоў каля в. Грэбень Пухавіцкага р-на. На паўн.-ўсх. ускраіне вёскі, ва ўрочышчы Курганы. Захавалася 3 курганы выш. 2,5 м, дыям. 10 м (раней было 44 насыпы). Адкрыў і даследаваў 3 курганы ў канцы 19 ст. К. П. Тышкевіч. Пахавальны абрад — трупапалажэнне. У адным кургане пахаванне парнае ў насыпе і яме глыб. каля 2 м, у другім — адзіночнае на глыб. 1,4 м. У трэцім насыпе на глыб. 10 см знойдзены чэрап дзіцяці, глыбей — вуголле і рэшткі спаленых касцей, на глыб. 1 м — шкілет мужчыны. Знойдзены бронзавыя пярсцёнак і шпілька ў драўляным футарале.

*Літ.*: 1022.

**ГРЭНСК,** стаянка ранняга мезаліту (10—8 тыс. г. таму назад) каля в. Ворнаўка Кармянскага р-на. За 2 км на У ад вёскі, на ўсх. ускраіне астанца першай надпоймавай тэрасы правага берага р. Сож, ва ўрочышчы Грэнск, на выш. 6—7 м над межанным узроўнем вады. Выявіў у 1927 К. М. Палікарповіч, даследаваў 90 м² у 1959—61 У. Дз. Будзько. Знойдзены 708 прылад працы, вылучаны 2 культурныя пласты. Ніжні на глыб. 1,9—2 м утрымліваў вял. колькасць расшчэпленага крэменю, драўнянага і касцявога вугалю вакол круглаватага агнішча, абкладзенага камянямі. У раскопе выяўлены рэшткі яшчэ 2 агнішчаў. Знаходкі верхняга пласта на глыб. 0,6—1,3 м прадстаўлены лінзамі драўнянага вугалю і крамянёвымі вырабамі. На думку даследчыка, ніжні культурны пласт датуецца сярэднім дрыясам (12 300—11 800 г. таму назад), а верхні — аляродскім часам (11800—10 800 г. таму назад). У 1972—81 стаянку даследаваў В. Ф. Капыцін, раскапана 380 м². Культурны пласт 0,2—0,5 м. У выніку даследавання атрымана вял. калекцыя крамянёвага інвентару, зроблены вывад пра памылковае вылучэнне 2 культ. пластоў.

Знойдзены тронкавыя і асіметрычна тронкавыя (грэнскі тып) наканечнікі стрэл, вастрыі, праколкі, рэтушныя, двухгранныя і вуглавыя разцы, канцавыя, падакруглыя, двайныя, адзінкавыя пазногцепадобныя, стральчатыя і нуклеусападобныя скрабкі, вырабы з выемкамі, прылады, якімі секлі, адбойнікі. Знаходка вял. колькасці нуклеусаў, пласцін, адшчэпаў і дробных асколкаў сведчыць пра тое, што апрацоўка крэменю адбывалася на самім паселішчы. Ад назвы стаянкі Г. атрымала назву *грэнская культура.*

*Літ.*: 170, 172, 568, 575, 578, 847.

*В. Ф. Капыцін.*

**ГРЭ́НСКАЯ КУЛЬТУ́РА,** археал. культура позняга палеаліту і ранняга мезаліту (12—8 тыс. г. таму назад) у Верхнім Падняпроўі. Назву атрымала ад стаянкі *Грэнск* (каля в. Ворнаўка Кармянскага р-на). Мае 2 этапы: фінальнапалеалітычны (ранні) і раннемезалітычны (позні). Самыя стараж. помнікі — *Бароўка, Каромка, Хвойна* — сведчаць пра засяленне гэтай тэрыторыі з алеродскага часу (11 800—10 800 г. таму назад) і далейшае развіццё крамянёвай індустрыі помнікаў позняга палеаліту сярэднедняпроўскай культурнай агульнасці. Па меры раставання апошняга ледавіковага покрыва ў гарах Скандынавіі, у непасрэднай сувязі з прыроднымі працэсамі позналедавікоўя і пачатку *галацэну*, плямёны Г. к. разам з плямёнамі *свідэрскай культуры* прасоўваліся на поўнач, асвойваючы новыя тэрыторыі. Другі этап развіцця Г. к. ў Верхнім Падняпроўі прадстаўлены помнікамі Грэнск, *Дальняе Ляда,* Рэкорд. На рубяжы ранняга і позняга мезаліту замест Г. к. ўсюды пашырыліся помнікі сожскай культуры. Пасяленні Г. к. прадстаўлены сезоннымі стаянкамі паляўнічых па берагах рэк, часта на пясчаных дзюнах. У гэты час шырока выкарыстоўваліся лук і стрэлы, што дазволіла ўдасканальваць спосабы палявання на паўн. аленя і інш. жывёл. Асаблівасцю Г. к. з'яўляецца пашырэнне крамянёвых асіметрычных наканечнікаў стрэл (грэнскі тып), апрацаваных па адным краі крутой рэтушшу па ўсёй даўжыні загатоўкі і выемкай на другім краі. Сярод інш. крамянёвых прылад працы — канцавыя скрабкі, часта са скошаным лязом на кароткіх пласцінах і адшчэпах, разцы рэтушаваных форм, пласцінкі са скошаным рэтушаваным канцом, сярэдзінныя і вуглавыя праколкі, авальныя і з перахватам сякеры. На помніках позняга этапу трапляюцца ланцэтападобныя вастрыі, пераважаюць нажы з нерэгулярнай прывастраючай рэтушшу, а таксама шмат разнастайных вырабаў з выемкамі. Г. к. вылучана ў 1960-я г. У. Дз. Будзько па матэрыялах стаянак *Падлужжа, Рудня-Спаніцкая* і Грэнск (ад якой атрымала назву), далейшае вывучэнне яе помнікаў звязана з даследаваннямі А. Г. Калечыц, В. Ф. Капыцына, У. П. Ксяндзова.



Агульны выгляд раскопу стаянкі **Грэнск.**

*Літ.*: 170, 479, 572, 619, 847.

*В. Ф. Капыцін.*

**ГУ́ДАВІЦКАЕ СВЯЦІ́ЛІШЧА,** культавы язычніцкі помнік каля в. Гудавічы Чэрвеньскага р-на. За 200 м на У ад в. Гудавічы і 300 м на З ад в. Верхлес, на ўзгорку Святая Горка, на могілках. Пляцоўка памерам 50×57 м, выш. 4—5 м. Па краях узгорак паніжаецца, утварае роў, вакол якога насыпаны вал выш. каля 1,2—1,5 м. Раней на пляцоўцы ляжаў камень-следавік, ад якога захавалася частка з паглыбленнем, што ўшаноўвалася насельніцтвам як «адбітак ступні Божай Маці». Побач з кам-

нем-следавіком стаяць архаічны каменны крыж (выш. 0,6 м і шыр. 0,47 м), жал. і драўляныя крыжы, абвешаныя вышыванымі ручнікамі. Упершыню апісаў у 19 ст. А. Ельскі, даследаваў у 1985—86 Э. М. Зайкоўскі. У шурфе 9 м² у цэнтры пляцоўкі на глыб. 0,2—0,25 м выяўлены вуглістыя плямы і камяні, манета 1811. Ва ўсх. частцы вала на глыб. 0,8—1 м знойдзена вуголле і абломак ляпной керамікі. Помнік аналагічны свяцілішчам Паўн. Букавіны і смаленскіх крывічоў 8—12 ст.

За 1 км на Пн ад Святой Горкі раней стаяў каменны ідал «Цар Давыд», які быў знішчаны ў 1930-я г.

*Літ.*: 164. *Э. М. Зайкоўскі.*

**ГУДО́К,** селішча жал. веку і сярэднявечча каля пас. Гудок Чачэрскага р-на. За 150 м на ПнЗ ад пасёлка, на надпоймавай тэрасе левага берага р. Покаць, ва ўрочышчы Берагавы Борак (Пасека). Размешчана на месцы стаянкі каменнага веку, памер 330×15—60 м (кераміка 13—15 ст. сканцэнтравана пераважна ў паўн. частцы паселішча, жал. веку — у цэнтральнай). Адкрылі ў 1982 А. А. Макушнікаў і У. А. Літвінаў, даследаваў у 1984 Макушнікаў, раскапана 84 м² (2 раскопы). Культурны пласт 0,2—0,4 м.

У 1-м раскопе выяўлены рэшткі прамавугольнай у плане паўзямлянкі памерам 3,4×3,9 м, заглыбленай у мацярык на 0,65 м. Уздоўж мацерыковых сценак захаваліся згарэлыя бярвёны дыям. да 0,15—0,2 м, пакладзеныя ў 2 вянкі. На падлозе расчышчана 5 слупавых ям дыям. 0,12—0,25 м каля сцен, 28 малых ямак дыям. 0,05—0,12 м і яма ад цэнтр. апорнага слупа дыям. 0,3 м і глыб. 0,45 м. Каля паўд. сцяны, бліжэй да вугла, адкрыта зробленая на ўзроўні падлогі прамавугольная печ-каменка памерам 1×0,9 м, якая захавалася на выш. 0,55 м. Каля паўн.-ўсх. вугла жытла прасочаны ўваход, на лініі зах. сценкі ўрэзана звонападобная яма. На падлозе і ў печцы сабрана 209 фрагментаў грубай ляпной керамікі з дамешкай жарствы ў гліне. Большасць фрагментаў належыць кухонным гаршкам, знойдзены развал рабрыстай міскі, абломкі буйной пасудзіны з насечкай па венчыку, мініяцюрных пасудзін, глінянае прасліца. Жытло адносіцца да позназарубінецкага часу, датуецца 2—3 ст. н. э. У 2-м раскопе выяўлены матэрыялы 13—15 ст.: ганчарная кераміка, жал. нож, глінянае прасліца.

*А. А. Макушнікаў, А. І. Драбушэўскі.*

**ГУ́ЗІК.** Знаходкі гузікападобных прадметаў на Беларусі вядомы з ранняга жал. веку (7 ст. да н. э.—4 ст. н. э.). Разнастайныя віды Г. з косці, дрэва, металу, сланцу і інш. выяўлены на помніках 10—14 ст.

Усе яны падзяляюцца на 3 асн. тыпы: стрыжнёвыя (з дробных касцей, фалангаў пальцаў жывёл, рога, дрэва); пляската-пукатыя з адной ці некалькімі скразнымі адтулінамі (пераважна з косці, мелі квадратную, круглую або шматпялёсткавую форму); шара- ці грушападобныя з пятлёй для прышывання (з металу, суцэльныя або пустацелыя, некаторыя імітуюць *бразготкі*). Металічныя Г. выраблялі штампоўкай або ліццём. Знойдзены ў курганных могільніках пры раскопках стараж. сярэдневяковых гарадоў па ўсёй тэр. Беларусі.

*Літ.*: 113.

**ГУ́ЛЬДЭН** (ням. Gulden залаты), 1) назва *фларына* ў Германіі ў 14 ст. З 15 ст. называліся залатыя манеты (маса ад 3,5 да 2,5 г), якія выраблялiся дзяржавамі Германіі. У 16 ст. для адрознення ад раўнацэннага яму сярэбранага Г. меў назву «залаты ў золаце» (goldgulden). З 17 ст. ўсюды выцеснены дукатам. 2) Распаўсюджаная назва буйных сярэбраных манет з рознай колькасцю серабра ў залежнасці ад месца і часу вырабу: гульдэнгрош (ням. guldengroschen залаты грош) масай 29,23 г эрцгерцага Сігізмунда [1439—96] выпускаўся ў Тыролі; у 17—19 ст. манета, роўная $^2/_3$, $^1/_2$, $^1/_3$ талера. У 17 ст. быў пашыраны на Беларусі. 3) Назва сярэбранай манеты Галандыі масай каля 19,6 г, якая выраблялася ў 1601 у Фрызіі, Аверэйселе, Гранінгене, Неймагене, Кампене і Зволе. З 1679 асн. грашовая адзінка Нідэрландаў.



**Гульдэн.** Германская імперыя: 1. Курфюрства Кёльн, Фрыдрых III [1440—93], недатаваны; 2. Архіепіскапства Майнц, Іаан Філіп, 1664.

*Літ.*: 1565, 1693. *В. С. Касмылёў.*

**ГУ́РКІ,** курганны могільнік дрыгавічоў каля хутара Гуркі Брэсцкага р-на. На Пд ад хутара, за 200 м ад дарогі Відамля—Высокае, у бярозавым гаі. 173 курганы выш. 0,4—1,7 м, дыям. 6—14 м (самы вялікі па колькасці курганоў могільнік у Брэсцкай вобл.). Насыпы абкладзены каля асновы валунамі, здзірванелыя, параслі дрэвамі і хмызняком. Рэчышчам перасохлай рэчкі могільнік падзелены на 2 часткі, большасць курганоў знаходзіцца на З ад рэчышча, ва ўсх. частцы насыпаў значна менш, але яны самыя вялікія па памерах. Могільнік вядомы з 19 ст. Абследавалі ў 1937 К. Салевіч, у 1958 І. В. Біруля, у 1980, 1985 Т. М. Каробушкіна; у 1960 Біруля даследаваў 14 насыпаў, у 1986, 1990 Каробушкіна — 11 курганоў, пахаванні выяўлены толькі ў 12 курганах. Пахавальны абрад — трупапалажэнне галавою на З (8 курганоў) і на У (4 курганы), рукі выцягнуты ўздоўж тулава.

У адным з насыпаў без пахавання выяўлены рэшткі згарэлай труны даўж. 2,7 м, шыр. 1 м, арыентаванай па восі З—У. У курганах знойдзены фрагменты рыфленага ганчарнага посуду з адагнутымі венчыкамі, глінянае прасліца, сярэбраны віты пярсцёнак, жал. нажы, у т. л. 1 нож з шырокай спінкай. У 5 курганах з пахаваннямі выяўлены попельнавугальныя падсыпкі даўж. 1 м, шыр. 0,8 м, таўшч. 10—12 см. Такая падсыпка адсутнічала ў кургане, дзе быў пахаваны мужчына ва ўзросце 25—30 гадоў, у скроневай і цемяннай частках яго чэрапа былі адтуліны, у левай руцэ нож. Нябожчык ляжаў галавой на У. У насыпе знойдзена шпора, у абкладцы значная колькасць камянёў, што не характэрна для інш. курганоў Брэсцкага Пабужжа. Асаблівасці пахавальнага абраду і пахавальнага інвентару даюць падставы меркаваць, што тут пахаваны воін (відаць, не мясц. паходжання).

Могільнік датуецца 11—13 ст.

*Літ.*: 591, 641, 910.

*Т. М. Каробушкіна.*


Выгляд раскапанага кургана з каменнай абкладкай з курганнага могільніка **Гуркі**.

**ГУРТ** (ням. Gurt пояс, стужка), рабро, бакавая паверхня манеты, абмежаваная плоскасцямі абодвух яе бакоў. З 2-й пал. 16 ст. на Г. некаторых зах.-еўрап. манет змяшчалі легенды, з канца 17 ст— *карбоўкі.* З 18 ст. ў шэрагу манет Г. фармаваўся ў гладкім кальцы з мэтай ускладніць падробку і *псаванне манет.* Надалей спец. апрацоўка Г. робіцца ўсеагульнай.

**ГУ́РЫ**, археал. помнікі каля в. Гуры Вілейскага р-на.

Селішча. За 300 м на ПдУ ад вёскі, на правым беразе р. Сэрвач. На мысападобным узвышшы, абмежаваным з Пн высокім берагам ракі, з У і З — забалочанай поймай. Пл. каля 0,7 га. Выявіў у 1955 А. Р. Мітрафанаў, у 1971 ва ўсх. частцы селішча ён жа правёў раскопкі (328 м$^2$). Культурны пласт таўшч. 0,2—0,25 м.

Даследаваны 2 прадаўгаватыя курганы, што знаходзіліся ў межах раскопу. Пад іх насыпамі выяўлены некрануты культурны пласт таўшч. 0,3 м, а паміж імі — не больш за 0,15—0,2 м. Насыпы складаліся ў асноўным з культурных напластаванняў селішча. У курганах знойдзены жал. сярпы, нажы (серпападобныя для жніва і гаспадарчыя), спражкі, фібулы, бронзавыя кольцы, гліняныя праслііцы (частка з іх арнаментавана нарэзкамі і наколамі). Кераміка штрыхаванай і банцараўскай культур.

Датуецца 5—6 ст.

Курганны могільнік. На паўд.-зах. ускраіне вёскі, на правым беразе р. Сэрвач. 19 круглых (дыям. 6—12 м, выш. 0,5—1,2 м) і 36 прадаўгаватых (памеры 7—9×12—17 м, выш. 0,6—1,5 м) курганоў. У аснове некаторых насыпаў прасочваюцца раўкі з перамычкамі і без іх. Некалькі насыпаў пашкоджаны. Могільнік выявілі ў 1930-я г. Г. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіч. У 1955—56, 1965, 1971—72 Мітрафанаў раскапаў 16 прадаўгаватых курганоў (з іх 7 пустыя). Пахавальны абрад — трупапаленне па-за межамі кургана.

Рэшткі крэмацыі разам з рэчамі змешчаны ў выкапаных у мацерыку ямах і накрыты перавернутымі ўверх дном гаршкамі (3 курганы), або ссыпаны непасрэдна на гарызонце (5 насыпаў). У адным кургане 2 пахаванні (на гарызонце і ў насыпе). Пахавальны інвентар бедны, пераважна ўпрыгожанні: бронзавыя спіральні, бляшкі, шкляныя пацеркі і інш.

Датуецца 8—9 ст.

*Літ.*: 785, 787. *Я. Г. Звяруга.*

**ГУ́РЫН** Міхаіл Фёдаравіч (н. 8.11. 1941, в. Радунь Карэліцкага р-на), беларускі археолаг. Д-р гіст. навук (1991). Скончыў БДУ (1971). Працаваў у БПІ (1966—76), дзе ўдзельнічаў у даследаваннях па апрацоўцы металаў і металічных парашкоў з выкарыстаннем выбуховых рэчываў. З 1976 у Ін-це гісторыі АН Беларусі. Асн. працы прысвечаны гісторыі вытворчасці жалеза і яго апрацоўкі на Беларусі. Даследаваў структуру крычнага жалеза, працэс крыцаўтварэння, прасачыў развіццё кавальскай тэхналогіі з сярэдзіны 1-га тысячагоддзя да н. э. да 18 ст. Даследаваў гарадзішчы *Кажан-Гарадок, Літнякі, Леніна* (Слуцкі р-н), *Мыслі, Чэрнічы.* Прымаў удзел у раскопках селішча *Тайманава* і Мінскага замчышча. Член Міжнар. к-та па вывучэнні стараж. металургіі. У 1962—64 удзельнічаў у размініраванні боепрыпасаў часоў Вял. Айчыннай вайны на тэр. Беларусі і Украіны.

*Тв.:* Древнее железо Белорусского Поднепровья (I-е тысячелетие н. э.). Мн., 1982; Исследование трехполосных ножей Полоцкой земли//Slovenská archeológia. 1984. R. 32, С. 2; Мир: Ист.-экон. очерк. Мн., 1985; Кузнечное ремесло Полоцкой земли IX—XIII вв. Мн., 1987; Процесс крицеобразования в древней металлургии железа//Slovenská archeológia. 1988. R. 36. С. 2; Кавальская тэхналогія на тэрыторы Беларусі ў XIV—XVIII стст.//Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1988. № 5.

**ГУ́РЫНА** Ніна Мікалаеўна (17.6. 1909, г. Растоў Яраслаўскай губ.— 9.9.1990), археолаг. Д-р гіст. навук (1963). Скончыла Маскоўскі дзярж. ун-т (1930). Працавала ў Кандалакшскім краязнаўчым музеі (Петразаводск, 1931—32), Эрмітажы (1935—38), з 1936 у Ін-це гісторыі матэрыяльнай культуры АН СССР (Ленінград). Вывучала археал. помнікі на Беларусі, у т. л. крэменездабыўныя шахты на р. Рось. Распрацавала методыку пошуку і даследавання шахтаў, вызначыла іх датаванне (1640—1240 г. да н. э.) і прыналежнасць да культуры шнуравой керамікі. У канцы 1950— пач. 60-х г. даследавала больш за 50 помнікаў каменнага і бронзавага вякоў на Панямонні і Падзвінні. Вызначыла адносную храналогію археал. помнікаў, пераемнасць ранняга неаліту з папярэднім часам. Меркавала, што Бел. Панямонне, Літва і паўн.-ўсх. раёны Польшчы ў часы мезаліту і неаліту ўваходзілі ў адзіную культурную вобл. Адзначыла асаблівасць мезалітычных прылад працы археал. помнікаў паўн.-зах. Беларусі і магчымасць існавання там нёманскай культуры.

*Тв.*: Древняя история северо-запада Европейской части СССР. М.; Л., 1961; Из истории древних племен западных областей СССР. Л., 1967; Древние кремнедобывающие шахты на территории СССР. Л., 1976. *В. Л. Ліпніцкая.*


М. Ф. Гурын.


Н. М. Гурына.


Ф. Д. Гурэвіч.

**ГУРЭВІЧ** Фрыда Давыдаўна [19. 12.1911(1.1.1912), Рыга — 8.9.1988], археолаг. Канд. гіст. навук (1937). Скончыла Ленінградскі педагагічны ін-т імя А. І. Герцэна (1932). Працавала ў Ін-це гісторыі матэрыяльнай культуры (1937—58), з 1959 у

Ленінградскім аддзяленні Ін-та археалогіі АН СССР. У выніку вывучэння помнікаў археалогіі Панямоння 1-га тысячагоддзя — 14 ст. н. э. выказала меркаванне, што да апошніх стагоддзяў 1-га тысячагоддзя н. э. Бел. Панямонне засялялі ўсходнебалцкія плямёны; усх. славяне з'явіліся тут у канцы 1-га тысячагоддзя і ў пач. 2-га тысячагоддзя заснавалі свае паселішчы: неўмацаваныя ў 10 ст., умацаваныя ў 11 ст. У выніку вывучэння стараж. Навагрудка, раскопак на яго пасадзе і дзядзінцы, а таксама на грунтавым і курганным могільніках (1956—63, 1965—78, 1984—85) даказала, што на старонкі летапісаў горад трапіў больш як на 2 ст. пазней сапраўднага ўзнікнення, што неўмацаваныя паселішчы на пасадзе ўзніклі ў сярэдзіне 10 ст., на дзядзінцы — у пач. 11 ст. Па матэрыялах іншых даследчыкаў распрацоўвала пытанні ўзнікнення і развіцця стараж. гарадоў Верхняга Панямоння. Аўтар больш за 120 навук. работ.

*Тв.*: Этнический состав населения Верхнего Понеманья по археологическим данным второй половины I тыс. н. э.//Исследования по археологии СССР. Л., 1961; Древности Белорусского Понеманья. М.; Л., 1962; Об этническом составе населения древнего Новогрудка //Acta Baltico-Slavica. 1969. № 6; К истории культурных связей древнерусских городов Понеманья с Киевской землей//Культура средневековой Руси. Л., 1974; Детинец и окольный город древнерусского Новогрудка в свете археологических работ 1956—1977 гг. // Сов. археология. 1980. № 4; Древний Новогрудок: Посад — окольный город. Л., 1981; Древние города Белорусского Понеманья. Мн., 1982.

*Т. М. Каробушкіна.*

**ГУ́СКІ,** курганны могільнік каля в. Гускі Мядзельскага р-на. За 500 м на ПдЗ ад вёскі, на ўскраіне лесу. Мясц. назва Горкі. Захавалася 20 круглых (дыям. да 10 м, выш. да 1,2 м) і авальных (даўж. да 15 м, шыр. 7—8 м, выш. да 1,5 м) насыпаў. Многія значна пашкоджаны. Паводле звестак мясц. жыхароў, раней курганоў было значна больш. У 1895 Ф. В. Пакроўскі раскапаў 3 круглыя курганы, абкладзеныя камянямі. Пахавальны абрад — трупаспаленне на грунце (у 2 курганах па адным пахаванні, у адным — 2). Знойдзены 2 жал. сярпы, наканечнік кап'я, 3 бронзавыя спіральныя пярсцёнкі, некалькі зліткаў бронзы. Могільнік належаў балцкім плямёнам. Датуецца 5—8 ст.

*Літ.*: 914. *Я. Г. Зверуга.*

**ГУ́ТА,** стаянкі каля в. Гута Бярэзінскага р-на.

Стаянка-1 *грэнскай культуры.* За 1 км на ПнЗ ад вёскі, на першай надпоймавай тэрасе правага берага р. Бярэзіна. Пл. 1500 м². Выявіў і даследаваў у 1982 У. П. Ксяндзоў. Культурны пласт 0,1 м, разворваецца. Сабраны крамянёвыя пласціны і адшчэпы з рэтушшу і без яе, нуклеусы, ланцэтападобныя вастрыі, бакавыя разцы, канцавыя скрабкі з адшчэпаў, скоблі. Датуецца 8—7-м тысячагоддзямі да н. э.

Стаянка-2 эпохі *неаліту* і ранняга *жалезнага веку.* За 0,3—0,4 км на З ад вёскі, на першай надпоймавай тэрасе правага берага Бярэзіны. Пл. 1000 м². Выявіў і даследаваў у 1982 Ксяндзоў. Культурны пласт 0,15 м, разворваецца. Сабраны неалітычныя скрабкі з крэйдавага крэменю, нуклеусы, пласціны, адшчэпы. Знаходкі фрагментаў гладкасценнай ляпной керамікі з дамешкамі жарствы ў гліне адносяцца да жал. веку.

*Літ.*: 626 *У. П. Ксяндзоў.*

**ГУ́ТА,** курганны могільнік радзімічаў каля в. Гута Рагачоўскага р-на. За 1 км на У ад вёскі, на беразе старыцы р. Сож. 14 курганоў (было 33) выш. 0,8—1,2 м, дыям. 6—8 м. Даследавалі ў канцы 19 ст. М. М. Філонаў, у 1910 Е. Р. Раманаў, у 1962 Г. Ф. Салаўёва, у 1976 абследаваў А. Р. Мітрафанаў. Пахавальныя абрады — трупаспаленне за межамі курганоў або трупапалажэнне на гарызонце (жаночыя — галавой за З, мужчынскія — на З і У).

Знойдзены перапаленыя косці чалавека, каня, бронзавыя злiткі, рэшткі вудзільнаў, пахаванне воіна, 7-прамянёвыя скроневыя кольцы, вітая грыўня, пацеркі, падвескі, жал. нажы, бранзалеты, шыферныя прасліцы, кераміка. Датуецца 10—11 ст.

*Літ.*: 689, 981, 1115.

**ГУ́ТЭН-ЧА́ПСКІ** Эмерык, гл. *Чапскі* Эмерык.



**ДАБРЫНЁВА,** стаянкі эпох неаліту і мезаліту каля в. Дабрынёва Івацэвіцкага р-на.

Стаянка-1. За 0,5 км на ПдЗ ад вёскі, на правабярэжнай тэрасе р. Грыўда, якая пераходзіць ва ўзгорыстае плато. Выявіў і абследаваў у 1963—64 В. Р. Супрун, даследаваў у 1967 М. М. Чарняўскі. Выцягнута ўздоўж берага на 1 км, шыр. да 200 м. На непашкоджаных участках захаваўся культурны пласт да 0,4 м.

Знойдзены рознагчасовы матэрыял: мезаліту — тронкавыя лістападобныя наканечнікі стрэл, ланцэтападобныя вастрыі, канцавыя скрабкі, разнастайныя разцы, трапецыі, адна- і двухпляцовачныя нуклеусы і інш.; ранняга неаліту — крамянёвыя вырабы і фрагменты архаічнай грабеньчатай керамікі; значна менш знаходак позняга неаліту і бронзавага веку, сярод якіх трохвугольныя наканечнікі стрэл і серыя крамянёвых сякер. На стаянцы паслядоўна жыло насельніцтва свідэрскай, янiславіцкай, нёманскай і шнуравой керамікі культур.

Стаянка-2. Насупраць зах. ускраіны вёскі, на канцы валападобнага пясчанага павышэння, выцягнутага ўздоўж краю правабярэжнай тэрасы р. Грыўда. Выявіў у 1985 М. М. Чарняўскі. Пл. 0,2×0,6 км. Культурны пласт да 0,3 м.

Знойдзены прылады працы, сфармаваныя пераважна на пласцінках, у т. л. высокія канцавыя скрабкі мезалітычнага часу. *М. М. Чарняўскі.*

**ДАБРЫ́НЬ,** курганны могільнік крывічоў. За 500 м ад в. Дабрынь Дубровенскага р-на, каля дарогі ў в. Азяры. 3 падоўжаныя курганы даўж. каля 15 м. Адзін курган раскапаў у 1928 І. А. Сербаў. У ніжняй частцы насыпу выяўлены кальцыніраваныя косці і кавалкі глінянага посуду. Датуецца 2-й пал. 1-га тысячагоддзя.

**ДАБУ́ЖА,** гарадзішча *зарубінецкай культуры* каля в. Дабужа Быхаўскага р-на. За 6 км на Пд ад вёскі, каля ўпадзення р. Хацішча ў воз. Ухлясць. Размешчана на ўзгорку выш. 20 м, абкружаным з усіх бакоў балотам. Памер 65×80 м, па краі ўмацавана кальцавым валам выш. 5—7 м. На адлегласці 10—20 м ад вала прасочаны дадатковы падковападобны вал выш. каля 4 м, шыр. 15—20 м. Рэшткі 3-га вала праглядаюцца на зах. краі пляцоўкі. Выявіў у 1924 А. Рынейскі, даследавалі ў 1926—27 І. А. Сербаў, у 1966 Л. Д. Побаль. Культурны пласт у шурфах 0,3 м. Знойдзена грубаляпная кераміка, частка якой штрыхаваная.

*Літ.*: 328, 710.

**ДАВЫД-ГАРАДО́К,** горад у Столінскім р-не. За 32 км на ПнУ ад Століна, 39 км ад чыг. ст. Гарынь на лініі Лунінец — Сарны, прыстань на р. Гарынь. Аўтамабільнымі дарогамі звязаны з Пінскам, Столінам, Туравам.

Паводле археал. даследаванняў, узнік у пач. 12 ст., у летапісах не ўпамінаецца. Мяркуюць, што яго заснавальнікам быў валынскі кн. Давыд Ігаравіч, які ў 1100 атрымаў Пагарынне замест адабранага Уладзіміра-Валынскага княства. Гарадзішча стараж. горада размяшчаецца ў цэнтры Д.-Г., на правым беразе р. Гарыні, на невысокім мысе (3—5 м над наваколлем), утвораным пры зліцці цяпер перасохлай р. Няпраўда і Гарыні. Пляцоўка дыям. 100—110 м была ўмацавана кальцавым валам (захаваліся невял. ўчасткі выш. да 2 м), аснову якога складаў рачны пясок, у ім выяўлены канструкцыі з хваёвых бярвён, што ахоўвалі вал ад апаўзання. З Пн гарадзішча было аддзелена ад карэннага плато ровам, тут размяшчаўся ўваход. Раскопкі праводзілі ў 1937—38 польскі археолаг Р. Якімовіч (ускрыта 1000 м²), у 1967 П. Ф. Лысенка (раскапана 112 м²). Культурны пласт 3,5 м. Дзякуючы

павышанай вільготнасці глебы ўдалося прасачыць рэшткі шматлікіх жылых і гасп. пабудоў, дваровых вымастак і вулічных маставых.

Жытлы — аднакамерныя прамавугольныя ў плане наземныя пабудовы зрубнай канструкцыі, арыентаваныя вугламі па кірунках свету, пл. 11,5—20 м², з глінабітнымі печамі, якія размяшчаліся ў адным з кутоў на тоўстай глінянай падушцы. Плошча гасп. пабудоў 6—7 м. Пры раскопках 1937—38 выяўлена некалькі вулічных маставых. Гал. вуліца уяўляла сабой насціл з колатых плах, пакладзеных на каркасную аснову з падоўжных і папярочных лаг. Краі насцілу замацоўваліся жэрдкамі з дапамогай калкоў. Астатнія вуліцы мелі больш простую канструкцыю — колатыя плахі былі пакладзены на падоўжныя лагі. Усе пабудовы размяшчаліся уздоўж вуліц і падзяляліся парканамі на асобныя сядзібы. Унутры сядзіб, акрамя жылых і гасп. пабудоў, адзначаны насцілы з колатых дошак, пакладзеных на зямлю або на тонкія лагі. Выяўлены рэшткі драўлянай двухкамернай царквы, побач з ёю, а таксама ў яе межах знойдзены 23 пахаванні ў дубовых трунах-калодах. Сярод знаходак—жал. наканечнікі кап'я-суліцы, стрэл, сярпы, нажы, нажніцы, кавальскія і слясарныя абцугі, прабойнік, долата, сякера, разец-лыжкар, драўляныя верацёны, лыжкі, фрагменты місак, шавецкія калодкі, рэшткі бандарных вырабаў, касцяныя іголкі для вязання сетак, каменныя брускі, жорны, фрагменты гліняных гаршкоў, арнаментаваных лінейным або хвалістым узорам, а таксама патэльняў, місак, накрывак, бронзавы віты бранзалет, скроневыя пярсцёнкападобныя кольцы, пярсцёнак і манетападобная падвеска, абломкі шкляных бранзалетаў, пярсцёнак і пацеркі.

У 14—18 ст. на месцы дзядзінца існаваў *Давыд-Гарадоцкі замак*. У гіст. дакументах Д.-Г. упершыню ўпамінаецца ў 14 ст.; уваходзіў у ВКЛ, быў ва ўладанні вял. князя, з 1523 — каралевы Боны, з 1551 — магнатаў Радзівілаў. Паводле ўскосных звестак, меў магдэбургскае права. З 1579 цэнтр ардынацыі, з 1586 у Клецкай ардынацыі. У час антыфеад. вайны 1648—54 жыхары горада трымалі пад сваім кантролем Гарадоцкую воласць і частку Пінскага пав. У час руска-польскай вайны 1654—67 у 1655 разбураны і спалены. У 2-й пал. 17—18 ст. прыйшоў у эканам. заняпад (паводле інвентара 1653, у Д.-Г. 348 двароў, паводле інвентара 1675—235 двароў). З 1793 у складзе Расіі.

*Літ.*: 703, 1436. *А. А. Егарэйчанка.*

**ДАВЫД-ГАРАДОЦКІ ЗАМАК.** Існаваў у 14—18 ст. на р. Гарынь у Столінскім р-не. Узнік на месцы старaж. дзядзінца *Давыд-Гарадка*, на высокім правым беразе ракі, на асобным узгорку, які з З абгінала р. Гарынь, з Пд — невялікая р. Няпраўда (яна ж Чартарыя, Няволя), з У да яго прымыкала балоцістая нізінная лугавіна; з Пн Замкавую гару ад карэннага берага аддзяляў вузкі і даволі глыбокі роў, які цяпер заплыў. Помнік вывучалі ў 1937—39 Р. Якімовіч, у 1961 П. А. Рапапорт, у 1967 П. Ф. Лысенка. З-за асаблівых, выключна палескіх, умоў, схаваны сярод пушчаў і балот, Давыд-Гарадок нават у перыяды свайго найб. росквіту ў якасці феад.-уладальніцкага горада не меў уласна гар. лініі ўмацаванняў. Яна поўнасцю базіравалася на магутнасці замка, які атрымаў у спадчыну ад старaж. дзядзінца яго прыродныя і штучныя абарончыя якасці, значна ўдасканаленыя ў сярэднія вякі. Замкавая гара ўзвышалася на 3—5 м над узроўнем вады ў Гарыні, мела амаль круглую пляцоўку ў плане дыям. 100—110 м. Яна была абведзена магутным земляным валам, насыпаным з рачнога пяску. Унутры насыпу ступеньчата размяшчаліся драўляныя перакладныя канструкцыі, якія падтрымлівалі зададзеную стромкасць схілаў, асабліва знешняга. Вышыня такіх сасновых сцэн-эскарпаў унутры вала дасягала 1 м. Дакладная вышыня абарончага вала і яго параметры ў 15—18 ст. невядомыя. Уцалелыя часткі б. вала выш. каля 2 м і шыр. у аснове да 10 м.

Гісторыя ўмацаванняў Давыд-Гарадка адлюстравана ў 15 падрабязных інвентарах горада і воласці, якія раскрываюць структуру абарончых умацаванняў Д.-Г. з. Найбольш старaж. з вядомых інвентароў сведчыць пра ўмацаванні замка, апісаныя 23.5.1605, калі Давыд-Гарадок належаў кн. Ольбрыхту Радзівілу. Аднак ведаючы тэрмін старэння драўляных абарончых пабудоў (12—15 гадоў), дакумент фактычна раскрывае структуру гэтых збудаванняў, узведзеных у 1590-я г. Паводле інвентара, вакол замка стаяў паркан «дужо злы часткова», які меў выгляд гародняў, накрытых старымі драніцамі. Згадваецца таксама ўчастак «стоячего паркану» (частаколу). З боку ўезда ў замак з горада ў паркане была «вежа з брамою» без даху, узведзеная замест ранейшай. Акрамя традыцыйнай вежы-брамы ў паркане стаялі старыя «башты», 5 старых і разбураных «вежак». Пры ўваходзе ў замак з размешчанага перад ім «двора» неабходна было перайсці «мост немалый», які вёў да выязной брамы з пад'ёмным мостам на ланцугах. На замкавым панадворку злева знаходзіліся 9 моцна апалых і пагнілых гароднях без дзвярэй. Упамінаюцца яшчэ 2 вежы: адна мела ўваход з размешчаных паблізу яе гароднях, другая згніла і была адбудавана толькі да палавіны. Сярод «стрельбы замковой» называюцца 4 акаваныя ў ложах бронзавыя гарматы на колах, 5 жал. спраўных гармат з клінавымі затворамі і 2 жал. марцíркі. Было таксама 20 гакаўніц, 7 губчатых ручніц, 50 драўляных і скураных парахаўніц, 3 капы, 38 штук жалезных і 8,5 коп каменных ядраў. Ручнічныя і гакаўнічныя кулі з волава захоўваліся ў спец. акаванай шуфлядзе. У белай скрыні ляжалі 2 жал. ланцугі па 180 і 240 звёнаў, кожны для пад'ёмнага моста. Зберагаўся тут і порах, які рабілі замкавыя майстры. Для работы з порахам карысталіся скуранымі вёдрамі. Майстры абавязаны былі таксама кожны год вырабляць і аддаваць у замак 8 губчатых ручніц. Залежныя сяляне Гарадзецкай і Палескай валасцей на працягу 2 тыдняў, вясной і восенню, пастаўлялі для рамонту замкавых умацаванняў лес, ладзілі замчышча, працавалі «што загадаюць з тапаром». У 1605 у горадзе былі 222 дымы (двары). Пра павіннасці гараджан у інвентары не паведамляецца. Іх разам з павіннасцямі пушкароў называе інвентар Давыд-Гарадка за 1631. Мяшчане з дапамогай сялян валасцей узводзілі і даглядалі ў акрузе масты цераз раку, у т. л. і вял. мост, будавалі ў лініі замкавых умацаванняў 55 сажняў паркану і «башты при своем прясле». Акрамя таго, мяшчане абавязаны былі з боку горада ўмацаваць палямі і сухім галлём падножжа замкавай гары — «капца», каб яго не падмывала вада. Рачулка, што ўпадала справа ў Гарынь, называлася ў народзе Чартарыя за неспакойны нораў яе вод, якія падрывалі «як чорт» замкавую гару і прыносілі дадатковыя клопаты. Яе «супакоілі» пры дапамозе запруды. Апошняя не толькі затрымлівала ваду, ствараючы своеасаблівы стаў (сажалку), але і пачала прыносіць двайную карысць: у месцы спуску вады змайстравалі на лодках вадзяны млын, якім карыстаўся ўвесь горад; падпёртая плацінай вада, перш чым трапіць у Гарынь, практычна абкружала замак з Пд і Пн і стварала дадатковую перашкоду на шляху ў замак. Няўрымслівасць Чартарыі (цяпер напалавіну перасохла) вымушала мяшчан выходзіць на рамонт грэблі «як на гвалт» і мацаваць яе палямі, сухім галлём і гноем «кожны год столькі разоў, колькі таго неабходнасць пакажа». У інвентары зафіксаваны таксама абавязкі замкавых пушкароў: штогод даваць у замак у якасці платы за сваe вольнасці па 3 губчатыя ручніцы «добрай работы», па 24 фунты пораху, за што замкавая адміністрацыя плаціла кожнаму па 3 капы 20 грошаў. Да таго ж пушкары даглядалі і рамантавалі замкавую зброю, ядры, кулі, розную амуніцыю, акоўвалі (але не выраблялі) гарматныя колы. Яны бясплатна выконвалі ўсю кавальскую работу ў горадзе і на млынах з жалеза, якое выдавалі ім у замку. Цясляр («цесля») Фама Бізаловіч даглядаў усе замкавыя пабудовы, у т. л. гародні, вежы і брамы «на страве замковай», адначасова сумяшчаў і пасаду замкавага гараднічага. Інвентар Давыд-Гарадка за 1653 (напярэдадні вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67) дае некаторыя ўдакладненні адносна павіннасцей мяшчан, валашчан і інш. жыхароў, «прыслухаючых» замку. З яго вынікае, што замкавыя пушкары валодалі надзеламі па 2 валокі зямлі. Дадатковымі іх абавязкамі сталі дапамога мытнікам, спагнанне пабораў і сачэнне за купцамі, каб яны не аб'язалі мытніцы іншымі дарогамі. Такі ж зямельны надзел меў новы замкавы цесля Павел Буяк, які атрымаў за службу асаблівую плату — «дарочны юргелт» ад кн. Радзівіла. Ён адказваў за рамонт замкавых жылых і гасп. пабудоў, вежаў, гароднях усюды, «дзе таго патрэба ўкажа, на замкавай справе будаваць» (пасада гараднічага яму ўжо, відаць, не належала). Захавалі былыя павіннасці і мяшчане: «паркан каля замка мяшчане прутоў сваіх, г. зн. сажняў 55, і башты пры сваім рэзе з дрэва павінна будавацца і папраўляць, калі што сапсуецца». Застаўся іх абавязкам догляд мастоў,

грэблі на Чартарыі і «ладзянага млына». Гэта рака, падпёртая запрудай, усё часцей называецца ў дакументах як «рэчка Няволя». Інвентары за 1653, 1665 і інш. гады сведчаць, што акрамя моста цераз Няволю, які быў размешчаны з Пн і звязваў Д.-Г. з. з «местам», існаваў яшчэ адзін мост, які падводзіў да замкавага паркана з Пд. На гэта, напэўна, паказвае і разрыў паміж валамі, які да нашага часу захаваўся на гарадзішчы. У вайну Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 у Давыд-Гарадку размяшчаўся моцны атрад войска ВКЛ у складзе 400 конных шляхціцаў і 300 узброеных мяшчан. Напачатку верасня 1655 горад аблажыў атрад рус. войска на чале са стольнікам Д. А. Валконскім, што прыйшоў на рачных караблях з Кіева з мэтай заняць раёны Бел. Палесся. У выніку бітвы Давыд-Гарадок быў узяты рускімі, якія потым пакінулі яго і пайшлі на Слонім. У вайну горад, хоць і знаходзіўся далёка ад гал. тэатра ваен. дзеянняў, пацярпеў моцна, пра што згадваюць інвентары Давыд-Гарадка за 1665 і 1670. Мяшчане аднаўлялі ўмацаванні замка разам з сялянамі вёсак Замкавай воласці. Палеская воласць ад «Праводнай нядзелі... і да Піліпавых запустаў рускіх» пасылала па чарзе на 10 чал., прычым абавязаныя павінны былі даваць з кожнай валокі зямлі па «1 капе драніц на замак». У суме гэта павінна было скласці 182,2 капы. Інвентары за 1670 і 1675 паведамляюць пра існаванне ў Давыд-Гарадку 2 замкаў — «Горнага» (Верхняга) і «Дольнага» (Ніжняга). Першы быў абнесены высокім валам і абкружаны вадой. На яго тэрыторыі стаяў толькі «дом кухонны», а ўсё астатняе было знішчана ў вайну. «Дольны» замак меў парканную агароджу. Агульная даўжыня лініі ўмацаванняў абодвух замкаў складала 20 шнуроў (980 м), з якіх на Верхні замак прыпадала 9 шнуроў і 1 прут (каля 466 м), на Ніжні — 10 шнуроў і 9 прутоў (каля 534 м). У лініі ўмацаванняў называюцца «вывады», якія, відаць, выконвалі ролю або патаемных хадоў за межы фартыфікацыі, або бастыёнаў. Будаўніцтва і рамонт абарончых умацаванняў, як і раней, ажыццяўляліся мясц. насельніцтвам «водлуг давнего звычаю». Аднак інвентар за 1670 паведамляе пра новыя катэгорыі насельніцтва і новыя воласці, што мелі свае «кватэры» ўмацаванняў, дакладна ўказвае, колькі і якая вёска абавязана была пабудаваць парканаў. Усе 980 м фартыфікацыі падзяляліся на 5 частак, адну з іх узводзілі мяшчане, другую — Замкавая воласць, трэцюю — Палеская воласць, чацвёртую — Манькаўская воласць (яна раней не ўдзельнічала ў будаўніцтве), пятую — «водлуг старадаўняга звычаю шляхта і зямяне прысуду тамашняга нанова будаваць і старое паправіць горадні тыя абавязаны, прытым і башты ставіць». У інвентарах за 1670 і 1675 змешчана «Устава месту Давыд-Гарадоцкаму», якая рэгламентавала абавязкі насельніцтва: «яўрэі разам з мяшчанамі павінны выконваць розныя павіннасці, і паркан каля замку на доле (Ніжні замак), мяшчане разам з яўрэямі на кватэры сваёй ад ракі Няволі пачаўшы да брамы Ніжняй з канца моста аж до вербавага броварчыка мерою 5 палявых шнуроў (245 м) і прытым башты з дрэва папраўляць і будаваць, калі што папсуецца, павінны, вал, грэблі... стаў супроць места ад вады, каб не падмывала, талакою коллем і хворастам тарасаваць». У 1670 у арсенале Д.-Г. з. было ўсяго «80 прысланых гакаўніц, 4 харугвы», гарматы ж не ўпамінаюцца нагул. Верагодна, у 1655 яны былі вывезены рускімі ў якасці трафеяў. У 1675 у замку — 60 дзідаў і 60 коп (3600 штук) стрэл для лукаў. Можна меркаваць, што ў Давыд-Гарадку выраблялі лукі, паколькі «вуліца Лучнікоўская» пастаянна згадваецца ва ўсіх інвентарах. Акрамя таго, у замку захоўваліся сцягі зямян, мясц. соцень мяшчан: «харугва конная кітайчатая чорная з чырвоным і двума канцамі; чатыры харугвы палатняныя пешых воінаў», а таксама «чорная кітайчатая харугва замку Клецкага». Інвентары паведамляюць пра размеркаванне ваенна-буд. павіннасцей сярод валасцей. Сяляне вёсак Замкавай воласці ў 1670 узводзілі 120 сажняў умацаванняў, у 1675—128 сажняў, Палескай воласці — 62 сажні. На мяшчан прыпадала каля 126 сажняў, на Манькаўскую воласць і шляхту-зямян — 193 сажні. У 1675 планіроўка Ніжняга і Верхняга замкаў выглядала наступным чынам: вакол іх разрастаўся горад, у якім былі 2 праваслаўныя царквы і касцёл. З «места» ў Ніжні замак можна было трапіць па перакінутым цераз роў мосце з парэнчамі. Уваход на мост запіраўся варотамі, ад якіх па новым мосце на палях цераз Чартарыю дарога вяла ў Верхні замак праз нападавіну ўзведзеную дубовую браму. Пасярод замкавага двара знаходзілася студня з дубовым зрубам. Абодва замкі абкружаў новы дубовы паркан. У 1681 і пазней мост у Верхні замак узвялі «на ізбіцах-зрубах». З 1670 да 1693 у інвентарах Давыд-Гарадка сустракаюцца прозвішчы адных і тых жа пушкароў — Солтанаў і Данкоў, а з 1693 — толькі Солтанаў (відаць, як і ў многіх іншых бел. прыватнаўласніцкіх гарадах, гэта прафесія была спадчыннай). Усе наступныя інвентары да 1760 даюць уяўленне пра паступовае запусценне і разбурэнне Ніжняга і Верхняга замкаў, якія з цягам часу ператварыліся з мясц. цэнтра абароны ў рэзідэнцыю адміністратараў перыферыйнага ўладання Радзівілаў. Да 1702 у інвентарах пастаянна сустракаюцца звесткі пра ваенна-буд. павіннасці мясц. насельніцтва, але, верагодна, Паўн. вайна 1700—21 канчаткова зняла іх з парадку дня. У інвентары за 1702 упершыню згадана сучасная назва ракі — «рэчка Няпраўда» (б. Няволя). З 1702 часта адзначаецца «каля таго замку канал з вадою цякучаю», радзей гаворыцца пра вежы, але пра паркан, што стаяў «на валу кругом», яшчэ ёсць звесткі на працягу 1-й чвэрці 18 ст. Сустракаецца інфармацыя пра ўмацаванне ўязной вежы — брамы замка. У інвентарах за 1728—34 часта ўпамінаецца замкавая «вялікая брама з залкай наверсе», па баках якой стаялі 2 фланкіруючыя вежы. Пазней яе змяніла звычайная драўляная брама з 2 кардыгардамі і тарцічнымі варотамі з нескладанай сістэмай запораў. Вароты адчынялі і запіралі доступ на замкавы панадворак, дзе ў акружэнні гасп. пабудоў стаяў палац адміністратараў. Такі выгляд замкавага двара зафіксаваў у апошні раз інвентар Давыд-Гарадка за 1793. *М. А. Ткачоў.*

**ДАВЫД-ГАРАДОЦКІЯ АРХЕАЛАГІЧНЫЯ ПОМНІКІ**, комплекс археал. помнікаў каля г. Давыд-Гарадок Столінскага р-на.

Бескурганны могільнік *зарубінецкай культуры.* За 2 км на ПнУ ад горада, на правым беразе р. Гарынь, ва ўрочышчы Леваноўшчына. Адкрыты ў 1978 у час распрацоўкі пясчанага кар'ера.

Знойдзены 2 неглянцаваныя міскі (адна вастрарэбрая на кальцавым паддоне, другая з плаўна выгнутым тулавам), 3 кубкі (2 з іх мелі чорнае глянцаванне), 3 гаршкі і жал. ўтулкавы наканечнік кап'я з полымепадобным пяром. У 1981 Г. М. Залашка даследаваў 100 м², выявіў 3 пахаванні. Пахавальны абрад — трупаспаленне па-за межамі могільніка. Кальцыніраваныя косці змяшчаліся на дно магільных ям глыб. 0,5—0,6 м у спец. гліняных чорнаглянцаваных гаршках-урнах. Пахавальны інвентар адсутнічаў. У пахаванні 3 у урне побач з касцямі выяўлены фрагменты глянцаванай керамікі, у пахаванні 2 гаршчок-урна меў у верхняй частцы дзяржанне, у пахаванні 3 — два дзяржанні з процілеглых бакоў. Могільнік датуецца 1 ст. да н. э.— 1 ст. н. э.

Бескурганны могільнік *мілаградскай культуры.* За 300 м на ПнУ ад зарубінецкага могільніка. У сценцы кар'ера на глыб. 0,6 м знойдзены невял. гаршчок з адагнутым вонкі венчыкам. У раскопе пл. 24 м² на глыб. 0,3 м ад паверхні выяўлены контуры падоўжанай ямы, арыентаванай з З на У, у ніжняй частцы зафіксавана авальная пляма (0,35×
×25 м) попелу і кальцыніраваных касцей. На У ад яе знаходзіўся вял. кругладонны гаршчок. Пахаванне датуецца 6—4 ст. да н. э.

Селішча зарубінецкай культуры. За 1 км на ПдЗ ад Давыд-Гарадка, на тэрасе левага берага р. Гарынь. Пл. каля 5 га. Выявіў і даследаваў 200 м² у 1985 А. А. Егарэйчанка. Культурны пласт 0,3—0,8 м. На глыб. 0,2—0,25 м зафіксаваны рэшткі наземнага жытла слупавой канструкцыі, прамавугольнай у плане формы, памерам 4×3,6 м. У паўн. вугле жытла на глыб. 0,4—0,5 м ад паверхні расчышчаны рэшткі агнішча (1,2×0,8) у выглядзе абпаленай гліны, попелу і вуглёў. Унутры агнішча і па-за яго межамі знойдзена шмат фрагментаў грубаляпнога посуду і касцей жывёл. За 1 м ад паўн.-зах. сцяны жытла знаходзілася гасп. яма дыям. 1,6 м, глыб. 0,2 м ад узроўню мацерыковай паверхні, унутры якой знойдзены абломкі грубаляпных зарубінецкіх пасудзін і косці жывёл.

Сярод 1735 фрагментаў глінянага посуду 6 % складае ганчарная кераміка страж.-рус. перыяду, 2 венчыкі ад гаршкоў мілаградскай культуры, астатнія фрагменты гаршкоў, місак, кубкаў, патэльняў, глянцаваных накрывак зарубінецкай культуры. Паводле спосабу вытворчасці вылучаюць 4 групы посуду: старанна загладжаныя, шышкаватыя, шурпатыя і глянцаваныя пасудзіны. На знешнім баку шэрага грубаляпных гаршкоў прыкметны вертыкальна размешчаныя кальцавыя баразёнкі або штрыхі, адзінкавыя экземпляры арна-

ментаваны косымі насечкамі па краі венчыка, а таксама пазногцевымі ўціскannямі па тулаве. Глянцаваны посуд (пераважна міскі) складае больш за 6 % усіх керамічных абломкаў. Сярод іншых знаходак — 2 фрагменты жал. нажоў, кавалкі тыгляў.

Датуецца канцом 1-га тысячагоддзя да н. э.— пач. 2 ст. н. э.

*Літ.*: 357, 406. *А. А. Егарэйчанка.*

**ДАЙНО́ВА,** назва аднаго з заходнябалцкіх плямён, якое разам з палякснамі і *ятвягамі* складала адзіны племянны саюз. На думку некаторых даследчыкаў, з канца 1-га тысячагоддзя да н. э. насялілі тэр. паміж р. Нёман і вярхоўямі р. Нараў. У 13 ст. землі Д. падвергліся нашэсцю Тэўтонскага ордэна. Частка насельніцтва была сілай перасялена ў Прусію, частка мігрыравала на тэр. Польшчы, паўд.-зах. Літвы і зах. Беларусі. Асіміляваны славянамі і літоўцамі. Археал. помнікі Д.— *каменныя курганы.* На думку В. В. Сядова, ім належаць *каменныя могільнікі* ў міжрэччы Нёмана і вярхоўях р. Віліі (*Апонаўцы, Вензаўшчына, Клепачы, Маркіняты, Салапяцішкі, Пузелі* і інш.). Дайноўскае ўдзельнае княства 13—14 ст. у Вял. кн. Літоўскім упамінаецца ў грамаце Міндоўга пад 1259. У 1270-я г. знаходзіліся ва ўладанні літ. князя Трайдзеня. Сляды пражывання Д. на землях Беларусі захаваліся ў шматлікіх тапонімах — Дзейнова, Дайнава, Дайноўка і інш., якія лакалізаваны ў міжрэччы Віліі і Верхняга Нёмана і ў раёнах Валожына, Гродна, Івянца, Радашковіч, Слоніма.

*Літ.*: 1065. *І. У. Чаквін, Г. В. Штыхаў.*

**ДАКУ́ДАВА,** стаянка *нёманскай культуры* эпохі мезаліту і неаліту каля в. Дакудава Лідскага р-на. Размешчана за 1 км на Пд ад вёскі, на краі правабярэжнай надпоймавай тэрасы Нёмана. Выявіў у 1962 г. М. М. Чарняўскі. Памер 500×60—80 м. Культурны пласт да 0,4 м. Знойдзены розначасовыя крамянёвыя вырабы і фрагменты керамікі. У ранні сярэднявеччы на месцы стаянкі існавала селішча.

*М. М. Чарняўскі.*

**ДАЛГО́Ў** Іван Іванавіч [1857, Пецярбургская губ.— 5(18).10.1911], беларускі гісторык, археолаг, краязнавец. Скончыў Пецярбургскі ун-т (1880). З 1889 у Полацкім кадэцкім корпусе. Вывучаў гісторыю Полацка са старaж. часоў, даследаваў археал. помнікі Полаччыны. Напісаў гісторыю кадэцкага корпуса (1835—90-я г.) і стаў адным з арганізатараў музея ў ім. Абраны правадзейным чл. Віцебскай архіўнай камісіі, удзельнік *Археалагічнага з'езда дзевятага.*

*Тв.*: Прошлое и настоящее Белоруссии //Витебские губернские ведомости. 1897. № 19; Наш край//Там жа. 1898. № 113—114; Полоцкий кадецкий корпус. Витебск, 1899.

*Літ.*: 198, 676. *Г. А. Каханоўскі.*

**ДАЛЕ́НГА-ХАДАКО́ЎСКІ** Зарыян Якаўлевіч (сапр. Ч а р н о ц к і Адам; 24.12.1784, маёнтак каля в. Гайна, цяпер Лагойскі р-н — 17.11.1825), беларускі славяназнавец, пачынальнік бел., укр., рус. і польскай археалогіі, фалькларыстыкі, этнаграфіі і дыялекталогіі. Чл.-кар. варшаўскага Т-ва сяброў навук (1819), пецярбургскага Вольнага т-ва аматараў расійскай славеснасці (1819), маскоўскага Т-ва гісторыі старажытнасцей расійскіх (1820). Скончыў Слуцкае павятовае вучылішча (1800). Працаваў у Мінску, у Варончы пад Навагрудкам, у 1814—18 у бібліятэцы Крамянецкага ліцэя. 14.12.1818 Віленскі ун-т упершыню выдаў на яго імя Грамату (*адкрыты ліст*) на правa раскопак і інш. навук. даследаванняў. Удзельнічаў у шматлікіх экспедыцыях і навук. падарожжах па многіх раёнах Беларусі, Украіны, Расіі. Даследаваў гарадзішчы (сабраў звесткі пра больш за 1 тыс. гарадзішчаў), замчышчы, курганы ў ваколіцах Бабруйска, Брэста, Ваўкавыска, Віцебска, Гомеля, Гродна, Ліды, Магілёва, Навагрудка, Пінска, Полацка, Рагачова, Слоніма, Турава і інш. Збіраў матэрыялы па гіст. геаграфіі, дыялекталогіі, этнаграфіі, фальклоры, тапонімы, гідронімы, упершыню выкарыстаўшы гэтыя звесткі для комплекснага вывучэння старажытнасці ў спалучэнні з археал. даследаваннямі. У працы «Пра славяншчыну да хрысціянства» (1818) сярод іншых вывадаў выказаў погляды на праблемы археалогіі, падкрэсліў выключнае значэнне археал. даследаванняў у вывучэнні быту і культуры продкаў. У «Даследаваннях адносна рускай гісторыі» (1819) крытыкаваў некаторыя палажэнні «Гісторыі дзяржавы Расійскай» М. Карамзіна, якія не ўлічыў фактара археал. аргументацыі ў вызначэнні граніц Беларусі (у наступных выданнях Карамзін улічыў іх). Сабраў лексікон (слоўнік) 7 тыс. урочышчаў, замаляваў сотні помнікаў археалогіі, у т. л. многія на Беларусі.



З. Я. Даленга-Хадакоўскі.

*Тв.*: Пути сообщения в древней России //Русский исторический сборник. 1837. Т. 1, кн. 1; Историческая система Ходаковского//Там жа. 1838. Т. 3, кн. 3; Slawiańszczyźnie przed chrzescijaństwem oraz inne pisma i listy. Warszawa, 1967.

*Літ.*: 513, 734, 1464, 1480.

*Г. А. Каханоўскі.*

**ДАЛЕ́ЦКІЯ,** стаянка каменнага веку. За 400 м на ПдЗ ад вёскі Далецкія Полацкага р-на, на другой надпоймавай тэрасе паўд. берага воз. Суя. Выявілі і даследавалі ў 1981 У. П. Ксяндзоў і Э. М. Зайкоўскі. Культурны пласт 0,2 м, у верхняй частцы пашкоджаны. Знойдзены крамянёвыя нуклеусы, скрабкі, скоблі, нажападобныя пласціны, адшчэпы, рэшткі ляпной керамікі.

**ДАЛІ́НА,** р а ч н а я д а л і н а, лінейна-выцягнутая форма рэльефу з амаль аднастайным нахілам, якая ўтвараецца ў выніку размыўнай дзейнасці цякучай вады. У пачатковай стадыі фарміравання мае V-падобны папярочны профіль. За кошт працэсаў глыбіннай эрозіі паглыбляецца, за кошт працэсаў бакавой эрозіі пашыраецца. На рэках, Д. якіх добра сфарміраваліся, вылучаюць: шырокае і плоскае дно, рэчышча (найб. нізкая частка Д., залітая вадой), пойму (участак Д., непасрэдна набліжаны да рэчышча, які мае амаль плоскую паверхню і залівaецца вадой у паводку) і рачныя тэрасы (гарызантальныя ці злёгку нахіленыя пляцоўкі, размешчаныя на розных узроўнях Д. на ўсім яе працягу ці асобных адрэзках). Улік тэрас вядзецца знізу ўверх. Фарміраванне рачных тэрас адбывалася ў выніку кліматычных змен, тэктанічных рухаў у час зледзянення і пасляледавікоўя. На пойме звычайна ёсць шмат старыц (старых рэчышчаў), пясчаных узгоркаў і град каля іх. Гэтыя мясціны, як і першыя надпоймавыя тэрасы, а таксама дзюны, былі густа населены ў неаліце і нават у бронзавым веку, калі рыбалоўства было адной з вядучых галін гаспадаркі. На больш высокіх тэрасах і карэнных берагах рачных Д. трапляюцца помнікі ўсіх археал. эпох, у т. л. палеалітычныя, мезалітычныя, жал. веку, сярэднявечча. Найбольш шырокую Д. на тэр. Беларусі выпрацавала Прыпяць (шыр. 2-й тэрасы дасягае 60 м). Рэкі дняпроўскага басейна маюць 2 плаўныя тэрасы. У Д. Нёмана, Зах. Дзвіны іх налічваецца ад 3 да 5. У Д. і каля іх размешчаны амаль усе старaж. гарады і многія вёскі Беларусі. Д. рэк з'яўляюцца асн. аб'ектамі для пошукаў археал. помнікаў.

*Літ.*: 203, 247, 1378. *А. Г. Калечыц.*

**ДА́ЛЬНЯЕ ЛЯ́ДА,** стаянкі каменнага веку каля в. Дальняе Ляда Быхаўскага р-на.

Стаянка-1. На ўсх. ускраіне вёскі, на 2-й надпоймавай тэрасе Дняпра. Выявіў у 1966 В. М. Мотуз, абследаваў у 1972 В. Ф. Капыцін. Культурны пласт 0,2 м. У агаленні правага берага ракі і траншэі ваеннага часу знойдзены расшчэплены крэмень, кароткія скрабкі, пласціны і адшчэпы, нуклеусы.

Стаянка-2 *грэнскай культуры* ранняга мезаліту. За 500 м на Пд ад вёскі, 120 м на У ад дарогі Магілёў — Быхаў, на 2-й надпоймавай тэрасе правага берага Дняпра, 12 м над узроўнем вады. Большасць плошчы ўзарана. Адкрыў у 1972 і даследаваў 116 м² у 1973 і 1988 Капыцін. Культурны слой залягае пад пластом дзірвану на глыб. 0,3—0,5 м у пяску.

Выяўлена каля 6 тыс. прадметаў крамянёвага інвентару (нуклеусы, пласціны, адшчэпы, некаторыя з рэтушшу). У межах раскопу выяўлены рабочыя месцы па апрацоўцы крэменю (больш за 100 артэфактаў на 1 м²), шмат прылад для апрацоўкі косці, скуры і дрэва: скрабкі канцавыя, разцы рэтушныя і двухгранныя, сякеркі з перахватам і авальныя, вырабы з выемкай. Сярод паляўнічых прылад тронкавыя наканечнікі стрэл (некаторыя з рэтушшу па краі пяра), разнастайныя вастрыі, нажы. З'яўляецца стаянкай-майстэрняй першаснай апрацоўкі крамянёвай сыравіны.

*Літ.*: 567, 572. *В. Ф. Капыцін.*

**ДАЛЬХО́ЛЬМСКІ МАНЕ́ТНЫ ДВОР,** Даленскі (Далескі) манетны двор, спецыялізаваны манетны двор у замку Дальхольм каля г. Рыга, заснаваны ў час Лівонскай вайны 1558—83.

Каралеўскімі ўказамі 1570—72 планаваўся спачатку манетны двор у замку Кірхгольм (Саласпілс). Д. м. д. выпускаў *манету надзвычайных абставін* грашовай эмісіі па лівонскай манетнай сістэме (200 шылінгаў = 4 фердынгам = = 2 паўмаркам = 1 марцы) для выплаты доўгу (каля 1600 тыс. лівонскіх марак) Рэччу Паспалітай наёмнікам-лівонцам гарнізона г. Пярну, што ахоўвалі яго ад шведаў. У 1572 пачаў чаканіць шылінг (*лотавая проба* $1^1/_2$, *лігатурная маса* каля 0,99 г), але ў тым жа годзе спыніў з-за нізкапробнасці манеты. У 1573 выпускаў наміналы ў фердынг (проба V, маса каля 2,73 г), паўмарку (проба V, маса каля 5,5 г) і марку (проба V, маса каля 11 г). 15.9.1573 выпуск манет быў спынены, нягледзячы на тое, што запланаваная эмісія не была выканана. На аверсе манет двара — герб Лівоніі (выява грыфа, што крочыць улева, з мячом у правай лапе), кругавая легенда (на лацінскай мове) — Ducatus Livoniae (герцагства Лівоніі); на рэверсе — двухдольны геральдычны шчыт з гербам Рэчы Паспалітай (выява «белы арол» Каралеўства Польшчы і «Пагоня» Вял. кн. Літоўскага), пазначэнне наміналу (на нямецкай мове) — 1 SCHILLING (1 шылінг), FERD (фердынг), HALB MARCK (паўмаркі), EINE MARCK (адна марка) і дата; кругавая легенда (на лацінскай мове) — MONE NOVA ARGENTEA (манета новая сярэбраная). Адносна наміналаў Вял. кн. Літоўскага курс шылінга быў парытэтны $^1/_6$ *гроша літоўскага*, фердынга — паўтара грошам, паўмаркі — *траяку*, маркі — *шасці грошам*.

*Літ.*: 1547, 1643, 1704, 1705. *В. Н. Рабцэвіч.*

**ДАМАНО́ВА,** стаянка эпохі неаліту каля в. Даманова Бабруйскага р-на. На паўн.-ўсх. ускраіне вёскі на першай надпоймавай тэрасе правага берага р. Бярэзіна, каля могілак. Пл. 30×20 м. Адкрыў і даследаваў у 1974 У. П. Ксяндзоў.



Шылінг 1572 і фердынг 1573, выпушчаныя **Дальхольмскім манетным дваром.**

У агаленні культурнага пласта знойдзены крамянёвыя прылады (трохвугольны наканечнік стралы без тронкаў, ножападобныя пласціны і адшчэпы, нуклеус), ляпная кераміка з дамешкамі жарствы ў гліне. Паверхня пасудзін арнаментавана ямачнымі адбіткамі.

**ДАМБАВЕ́ЦКІ** Аляксандр Станіслававіч (1840 — каля 1914), бел. краязнавец, грамадскі дзеяч. Скончыў Кіеўскі ун-т. З 1870 камергер, ганаровы суддзя Лідскага пав., з 1872 магілёўскі губернатар, з 1893 сенатар. Ініцыятар выдання і рэдактар калектыўнай працы «Вопыт апісання Магілёўскай губерні ў гістарычных, фізіка-геаграфічных, этнаграфічных, прамысловых, сельскагаспадарчых, лясных, вучэбных, медыцынскіх і статыстычных адносінах» (кн. 1—3, 1882—84). Ініцыятар адкрыцця гіст.-этнаграфічнага музея ў Магілёве (1879). Член падрыхтоўчага к-та *Археалагічнага з'езда дзевятага*, арганізоўваў археал. экспедыцыі па Магілёўшчыне, а таксама выстаўкі археал. знаходак у Магілёве, якія экспанаваліся на археал. з'ездзе ў Вільні. Садзейнічаў выданню «Дзённіка курганных раскопак...» М. В. Фурсава і С. Ю. Чалоўскага (1892), рабоце Е. Р. Раманава над *«Археалагічнай картай Магілёўскай губерні»*, спрыяў правядзенню археал. доследаў У. З. Завітневічу, Д. Я. Самаквасаву, М. В. Фурсаву, С. Ю. Чалоўскаму і інш.



А. С. Дамбавецкі.

*Літ.*: 513. *Г. А. Каханоўскі.*

**ДАМЕСТЫКА́ЦЫЯ** (лац. domesticus хатні), прыручэнне, перастварэнне дзікіх жывёл у свойскіх шляхам прыручэння, штучнага адбору, утрымання і развядзення ў створаных чалавекам умовах. У розныя гіст. перыяды чалавекам прыручаны многія жывёлы, з якіх найбольшае гасп. значэнне мелі буйная рагатая жывёла, свінні, авечкі, сабакі, куры, качкі і інш. Продкі свойскіх жывёл валодалі асаблівым тыпам нервовай дзейнасці і высокай ступенню марфалагічнай і экалагічнай пластычнасці, магчыма, таму амаль усе свойскія жывёлы належаць да пазваночных, прычым многія з іх статкавыя капытныя жывёлы або чародныя птушкі. Пераважная большасць жывёл прыручана ў *галацэне*. У ходзе Д. змяніліся морфафізіялагічныя характарыстыкі жывёл — афарбоўка і валасяное покрыва, памеры і маса, асаблівасці шкілета, мускулатуры і тлушчаадкладання, пладнасць, прадукцыйнасць і інш. Асабліва паказальна памяншэнне галаўнога мозгу (адна з універсальных прыкмет Д.) і змяненне паводзін. Першасная Д. праходзіла на абмежаваных тэрыторыях. У археал. матэрыялах з тэр. Беларусі першыя знаходкі рэштак жывёл з прыкметамі прыручэння адносяцца да каменнага веку. На паселішчы *Камень* Пінскага р-на (раскопкі У. Ф. Ісаенкі) косці быка залягалі разам з раннeнеалітычнымі матэрыяламі, а з позданеалітычным гарызонце выяўляюць косці свойскай свінні і каня.

*Літ.*: 460, 1376. *Н. П. Александровіч.*

**ДАНІЛЕ́ВІЧ** Васіль Яўхімавіч (1872, Курск — 16.11.1936), украінскі археолаг, гісторык. Скончыў Кі-

еўскі ун-т. Праф. Харкаўскага (з 1902), Кіеўскага (з 1907) ун-таў. Садзейнічаў стварэнню Кіеўскага археал. музея. Працаваў у археал. экспедыцыях на Полаччыне, Падзвінні, даследаваў стаянку каменнага веку Кісцяні. У працах «Нарыс гісторыі Полацкай зямлі да канца XIV стагоддзя» (1896) і «Шляхі зносін Полацкай зямлі да канца XIV стагоддзя» (1898) абгрунтаваў правамернасць назвы «Полацкая зямля», паказаў яе гіст. ролю, ваенную і эканам. стабільнасць. Аўтар прац па нумізматыцы, сфрагістыцы, фальклоры, этнаграфіі.

*Тв.*: Стоянка и мастерская каменного века в Могилёвской губернии, исследованная летом 1893 года // Киевская старина. 1895. Т. 49, апрель.

*Літ.*: 541. *Г. А. Каханоўскі.*

**«ДАПАМО́ЖНЫЯ ГІСТАРЫ́ЧНЫЯ ДЫСЦЫПЛІ́НЫ»**, неперыядычны зборнік, які выдаецца з 1968 на рус. мове Ленінградскім аддзяленнем Археаграфічнай камісіі Аддзялення гісторыі АН СССР. Да 1991 выйшаў 21 том. Публікуе артыкулы па гістарыяграфіі і дапаможных дысцыплінах — гісторыі сярэдневечча і новай гісторыі СССР (пераважна 16 — пач. 20 ст.). Рэгулярна змяшчаюцца артыкулы па нумізматыцы і сфрагістыцы, у т. л. і па праблемах агульных для рус. і бел. гісторыі (златнікі, куфіцкія дырхемы, безманетны перыяд, грашовая рэформа Аляксея Міхайлавіча і інш.). У 2-м томе змешчаны агляд нумізматычных даследаванняў у Расіі, на Украіне і Беларусі ў 1917—67, у 10 і 20 тамах — алфавітныя паказальнікі артыкулаў і матэрыялаў папярэдніх тамоў.

*І. І. Сінчук.*

**ДАРАХІ́**, стаянкі *паўночнабеларускай культуры* 22—18 ст. да н. э. (даследавалі ў 1989 П. М. Драчоў, В. І. Ждановіч, Ю. К. Кульпановіч, В. М. Лоскутаў, С. М. Сіманюкоў), курганныя могільнікі (каля 150 насыпаў) і паселішчы (адкрыў у 1958 краязнавец І. А. Вашчыла, даследаваў у 1971, 1973, 1975 Г. В. Штыхаў) 6—8 ст. і эпохі Кіеўскай Русі каля в. Дарахі Гарадоцкага р-на.

Стаянка-1. На ПнУ ад в. Дарахі, побач з былой в. Жукава, за 300 м ад карэннага берага на дне воз. Сенніца. Культурны пласт 0,3 м. Выяўлена 729 фрагментаў ляпных пасудзін, упрыгожаных ямкавымі ўціскannямі, насечкамі, грабеньчатым арнаментам. Знойдзены таксама рэшткі палі, фрагменты абгарэлага дрэва, косці жывёл.

Стаянка-2. За 117 м на ПдУ ад стаянкі-1. Выяўлена 490 фрагментаў ляпных пасудзін, каменнае грузіла, апрацаваныя камяні, фрагменты касцей і абгарэлага дрэва, рэшткі паляў, скопішчы валуноў.

Стаянка-3. За 157 м на ПдУ ад стаянкі-2. Выяўлена 211 фрагментаў арнаментаваных пасудзін, кавалкі абгарэлага дрэва.

Стаянка-4. За 167 м на ПдУ ад стаянкі-3. Выяўлены фрагменты ляпных пасудзін і абгарэлага дрэва.

Паселішча-1. За 500 м на У ад вёскі, на невял. узвышшы на беразе воз. Сенніца. Мясц. назва Лысая Гара. Пл. 0,5 га. Даследаваў 104 м² у 1972—73 Штыхаў. Культурны пласт 0,3—0,6 м.

Знойдзены ляпны посуд 3-й чвэрці 1-га тысячагоддзя і глінянае начынне феад. перыяду, жал. шлак, перапаленыя косткі. У мацерыку выяўлена некалькі невял. ям, магчыма, ад слупоў.

Паселішча-2. За 1,2 км на ПнЗ ад вёскі, на беразе воз. Сенніца, на ўзвышшы сярод балота. Пл. 2 га. Даследаваў 40 м² у 1978 Штыхаў. Культурны пласт захаваўся каля асновы гары.

Знойдзена 456 абломкаў ляпной слабапрафіляванай керамікі 2-й і 3-й чвэрцяў 1-га тысячагоддзя, глінянае прасліца, 2 жал. шылы, фрагмент сярпа, жал. шлакі. На балоце каля паселішча выяўлены жорнавы камень дыям. 38 см з паглыбленнем.



Гліняныя гаршкі 6—7 ст. з курганнага могільніка-1 **Дарахі.**



Верхні камень ад жорнаў 9 ст. з курганнага могільніка **Дарахі.**

Паселішча-3. За 1,5 км на ПнЗ ад вёскі, на беразе воз. Сенніца. Мясц. назва Чорная зямля. Пл. больш за 1 га. Даследаваў у 1972 Штыхаў. У шурфе 2×1 м таўшч. культурнага пласта 0,8 м. Знойдзена 60 абломкаў гаршкоў 11—13 ст. На раллі выяўлена ляпная кераміка.

Могільнік-1 банцараўскай культуры. За паўд. ваколіцай вёскі. 12 курганоў дыям. 7—11 м, выш. 0,5—1 м. Адзін курган доўгі (22×10 м), выш. 1,2 м. Раскапана 9 насыпаў. Пахавальны абрад — трупаспаленне ў насыпе, рэшткі спаленага трупа знаходзіліся ў гліняным гаршку слоікавай формы. Некаторыя урны накрыты другім гаршком. Знойдзены інвентар (жал. спражка, цуглі, зубы быка). Датуецца 3-й чвэрцю 1-га тысячагоддзя н. э.

Могільнік-2 *доўгіх курганоў Паўночнай Беларусі культуры.* За 2 км на У ад вёскі, на паўд. беразе воз. Сенніца, ва ўрочышчы Яўграфаў Хутар. 17 падоўжаных і авальных насыпаў даўж. 8 м, выш. 1,5—2,2 м, шыр. 6—7 м. Раскапаны 3 курганы. Пахавальны абрад — трупаспаленне ў ямах, накрытых перавернутым ляпным гаршком.

Сярод перапаленых касцей знойдзены рэшткі бронзавых вырабаў (спіралькі, абломкі плоскага скроневага кольца, арнаментаванага выпуклым пояском, 15 невял. аплаўленых рэчаў) 8—9 ст., належалі крывічам.

Могільнік-3. За 300 м на Пд ад могільніка-1. 5 насыпаў выш. да 1 м, дыям. да 7 м (усе даследаваны). Пахавальны абрад — трупаспаленне. Датуецца 3-й чвэрцю 1-га тысячагоддзя н. э.

Могільнік-4. За 500 м на Пд ад вёскі. 15 курганоў дыям. 6—9 м, выш. 1—2 м, з іх 5 раскапаны. Пахавальны абрад — трупаспаленне ў насыпе. Знойдзена кераміка 3-й чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. банцараўскай культуры, невялікая жал. шпора і спражка.

Могільнік-5. За 2,5 км на У ад вёскі, ва ўрочышчы Яўграфаў Хутар, каля паселішча-3. 63 курганы выш. 0,5—1 м, дыям. 6—8 м, з іх даследавана 10. Пахавальны абрад — трупапалажэнне галавой на З пад насыпам, на месцы невял. рытуальнага вогнішча. У адным кургане з 3 пахаванняў 2 арыентаваны галавой на Пн.

Знойдзены бронзавыя лірападобная і прамавугольная спражкі, шкляныя і жал. пацеркі, жал. крэсіва, цуглі, касцяны грэбень з футаралам, падковападобная фібула, ганчарны гаршчок. Курганы насыпаны на месцы паселішча 3-й чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. Могільнік датуецца 2-й пал. 10—11 ст., належаў крывічам.

Могільнік-6. За 2 км на ПдУ ад вёскі, каля дарогі на в. Кайкі. 7 курганоў выш. да 1 м, дыям. 6—8 м, з іх даследаваны 4. Пахавальны абрад — трупаспаленне. Знойдзены гліняны посуд 3-й чвэрці 1-га тыся-

чагоддзя н. э. банцараўскай культуры.

Могільнік-7. За 1,5 км на У ад вёскі, ва ўрочышчы Зуевы ляды. 3 курганы дыям. 7—8 м, выш. да 1м.

Могільнік-8. За 700 м на У ад вёскі, ва ўрочышчы Копаная ель. 4 курганы дыям. 7—9 м, выш. да 1 м.

Могільнік-9. За 1 км на Пд ад вёскі. 6 кургаНоў дыям. 6—7 м, выш. да 1 м.

Могільнік-10. За 1,2 км на Пд ад вёскі, побач з могільнікам-9. 3 курганы дыям. 8—9 м, выш. да 1 м.

Могільнік-11. За 1 км на ПдУ ад вёскі, каля дарогі на в. Рудня. 3 курганы дыям. 7—8 м, выш. 1—2 м.

Апрача названых, у ваколіцах вёскі ёсць некалькі асобных курганоў. Адзін з іх дыям. 20 м, выш. 3 м знаходзіцца ва ўрочышчы Казённы Лес.

*Літ.*: 848, 1349.

*С. М. Сіманюкоў, Г. В. Штыхаў.*

**ДАРАШЭ́ВІЧЫ,** стаянкі эпох мезаліту і неаліту каля в. Дарашэвічы Петрыкаўскага р-на.

Стаянка-1 эпохі мезаліту. За 1—1,5 км на З ад вёскі, на другой надпоймавай тэрасе р. Прыпяць, на выш. 10—12 м над узроўнем вады. Даўж. стаянкі 300 м. Адкрыў і даследаваў у 1962 і 1965 У. Ф. Ісаенка. Знойдзены 300 крамянёў са слядамі апрацоўкі, 59 крамянёвых прылад працы. Датуецца 7—6-м тысячагоддзямі да н. э.

Стаянка-2 палескага варыянта *днепра-данецкай культуры.* За 300 м на З ад вёскі, на другой надпоймавай тэрасе р. Прыпяць. Вышыня над узроўнем вады 10—13 м, даўжыня 150 м. Адкрыў і даследаваў у 1962 Ісаенка. Культурны пласт 0,2 м.

Выяўлены рэшткі абпаленых камянёў, якімі абкладваліся агнішчы, 200 камянёў са слядамі апрацоўкі, 74 крамянёвыя прылады працы і 310 фрагментаў ляпнога глінянага посуду. Датуецца 3-м тысячагоддзем да н. э.

*Літ.*: 460.

*У. Ф. Ісаенка.*

**ДАРЖЫ,** стаянка і крэменеапрацоўчая майстэрня нёманскай культуры эпохі неаліту каля в. Даржы Лідскага р-на. Выявіў і даследаваў у 1962 М. М. Чарняўскі.

Стаянка. За 1 км на Пн ад вёскі, на часткова развеянай дзюне «Боркава Гара», пасярод шырокага правабярэжнага поплаву р. Дзітва. Памеры 60×95 м. У цэнтр. і паўн.-зах. частках помніка прасочваецца шэры культурны пласт таўшч. да 0,6 м. У пласце, а таксама на выдмах знойдзены крамянёвыя нажы, скрабкі на пласцінках і адшчэпах, нуклеусы, розначасовая кераміка.

Крэменеапрацоўчая майстэрня. На невял. павышэнні каля паўн.-зах. краю дзюны «Боркава Гара». Памер 20×30 м. У культурным пласце таўшч. да 0,4 м знойдзена вял. колькасць крамянёвых сколаў і адшчэпаў з крэйдавай скарынкай, некалькі нуклеусаў і адшчэпаў з рэтушшу, фрагмент керамікі нёманскай культуры (дубічайскага этапу). Крамянёвая сыравіна ў майстэрню паступала з крэйдавага адорвеня, размешчанага за 2 км на краі карэннага берага р. Дзітва.

*М. М. Чарняўскі.*

**ДАРКЕ́ВІЧ** Уладзіслаў Пятровіч (н. 1.9.1934, Віцебск), археолаг і гісторык. Д-р гіст. навук (1978). Скончыў Маскоўскі дзярж. ун-т (1958). З 1959 працуе ў Ін-це археалогіі АН СССР. Вывучае гісторыю і культуру сярэднявечча, міжнар. сувязі Старажыт. Русі, старажыт. гарады. Даследаваў творы зах. мастацкага рамяства 12—13 ст., выяўленыя на Беларусі: бронзавы вадалей (Гродна), касцяное наверша ў выглядзе галавы льва, якая заглынае чалавека (Ваўкавыск), лыжачка для прычасця з выявай святога (Мінск), шахматныя фігуркі (Гродна, Ваўкавыск). Вывучаў шляхі з'яўлення на Русі арабскіх манет.

*Тв.*: Древнерусские шахматы // Наука и жизнь. 1962. № 8; Произведения западного художественного ремесла в Восточной Европе (X—XIV вв.). М., 1966; Путями средневековых мастеров. М., 1972; Народная культура средневековья. М., 1988.

*Г. В. Штыхаў.*

**ДАСЛЕ́ДАВАННЕ** археалагічнае. Праводзіцца метадамі палявой археалогіі ў спалучэнні з метадамі прыродазнаўчых і фізіка-тэхнічных навук і метадамі гістарычных даследаванняў.

На 1-м этапе Д. (палявая практыка) ідзе выяўленне, накапленне і захаванне археал. матэрыялаў, праводзяцца выбарачныя і суцэльныя пошукі, зборы старажытнасцей і звестак пра іх (пешыя і інш. разведкі, аэрафотаздымка, пісьмовыя крыніцы, апытанні, *падводная археалогія* і інш.), раскопкі помнікаў па спец. методыцы, фіксацыя і кансервацыя помніка, рэстаўрацыя і рэканструкцыя знаходак. Дакументацыя і апісанне комплексу знойдзеных рэчаў і вынікі аналізу дазваляюць атрымаць археал. крыніцу. У час лабараторнай апрацоўкі знаходак даследуюцца таксама тэхналогія вырабу рэчаў і іх функцыянальная прыналежнасць, вызначаецца касцявы (астэалагічны) і палеабатанічны матэрыял, праводзіцца параўнальна-тыпалагічны аналіз, статыстычная апрацоўка, ацэньваюцца выбаркі рэчаў (гл. *Выбарачны метад*). Гэты рэчазнаўчы этап заканчваецца ўстанаўленнем храналогіі і перыядызацыі помніка, яго культурнай, стадыяльнай, лакальнай прыналежнасці. На 2-м этапе Д. адбываецца інтэрпрэтацыя помніка і на гэтай аснове рэканструкцыя гістар. працэса. Асэнсаванне матэрыялу дазваляе атрымаць з археалагічнай гістарычную крыніцу. Па наяўных прыладах працы і з улікам этнаграфічных аналогій вызначаецца гаспадарча-культурны тып, узровень сацыяльна-эканам. развіцця, мясцовыя асаблівасці. Часам некаторыя рысы матэрыяльнай культуры дазваляюць высветліць грамадскія адносіны, духоўную культуру (у прыватнасці, асаблівасці культа) і на гэтай аснове вызначыць *палеаэкалогію,* этнічную прыналежнасць насельніцтва, *палеадэмаграфію, антрапалагічныя тыпы* і г. д. Невялікія плошчы раскопак і невялікая колькасць вывучаных помнікаў даюць папярэднія вывады. У працэсе далейшых Д. яны правяраюцца, удакладняюцца або замяняюцца больш новымі. Асабліва гэта датычыцца такіх складаных пытанняў як генезіс, арэал і варыянты культур, іх узаемаадносіны і гістар. лёс, змяненні гаспадарча-культурнага тыпу, этнічныя працэсы і інш.

*Літ.*: 4, 775, 937.

*У. Ф. Ісаенка.*

**ДАЎГІНА́ЎСКАЯ КАМЕ́ННАЯ ВЫЯ́ВА.** За 3 км на З ад в. Даўгінава Вілейскага р-на, каля дарогі на Вілейку. Уяўляе сабой крыж выш. 1,15 м, з перакрыжаваннем даўж. 1,07 м, вертыкальны стаяк шыр. 0,16—0,22 м. На ўзроўні перакрыжавання 2 выступы, унізе стаянка — выступ антрапаморфных абрысаў з круглай галавой і крыжападобна-распасцёртымі канечнасцямі. На тыльнай частцы каменя высечаны 4 васьміканцовыя крыжы. Магчыма, выява ўяўляе сабой язычніцкае боства, пазней «асвечанае» хрысціянамі.

*Літ.*: 1292.

*М. М. Чарняўскі.*

**ДА́ЎГМАЛЕ,** гарадзішча позняга жал. веку і ранняга сярэднявечча (каля 2-га тысячагоддзя да н. э.— канец 12 ст.) у Латвіі. За 22 км на У ад Рыгі, на левым беразе Зах. Дзвіны (Даўгавы). На У і З ад гарадзішча — селішча. Месца перасячэння заходнядзвінскага шляху з сухапутным шляхам з Пд і Пн, значная частка якога праходзіла праз Беларусь. Даследаваў у 1966—70 В. А. Уртанс. Знаходкі (скандынаўскія, германскія, славянскія, фінскія, балцкія, візантыйскія, арабскія вырабы, зах.-еўрап. манеты) даюць падставу сцвярджаць, што Д. з'яўлялася буйным рамесным і гандл. цэнтрам, да 10 ст. належала земгалам, у 11—12 ст. было заселена этнічна змешаным насельніцтвам.

*Літ.*: 1248, 1503.

*Л. У. Дучыц.*

**ДАХО́ЎКА,** керамічная плітка для пакрыцця дахаў пераважна мурававых будынкаў. У 19—20 ст. называлася таксама чарапіца. Адзін з найб. вогнетрывалых і даўгавечных матэрыялаў, які ў познім сярэднявеччы адыграў пэўную ролю ў дэкаратыўным аздабленні храмаў, палацаў і замкаў. На Беларусі Д. вядома з 14 ст., спачатку яна была паўцыркульнай або жалабатай (14— пач. 15 ст., Навагрудак, Віцебск. Лідскі і Крэўскі замкі), потым пляскатай з трохвугольным мацавальным шыпам, т. зв. «бабровы хвост» (15—16 ст., *Гродзенскі Стары замак*, замак у Любчы), і простая з паўкруглым канцом (15—17 ст.). Паступова яе змяніла хвалістая, або галандская Д. (канец 17 — пач. 20 ст.). Схілы і вільчыкі стромкіх дахаў накрывалі спецыяльнай вільчыкавай, Д., якую часам аздаблялі геам. арна-

ментам (Навагрудак). З канца 15 і ў 16 ст. выкарыстоўвалася дэкаратыўная непаліваная і паліваная (зялёнага колеру) гатычная вільчыкавая дахоўка з доўгім (да 9 см) выступам накшталт птушынай галавы з раскрытай дзюбай і круглай адтулінай для мацавання вял. каваным цвіком да кроквы (Мірскі замак, Стары Замак у Гродне). Вядома зялёная паліваная жалабатая Д. У 17—18 ст. існавала чорнаглянцаваная дэкаратыўная вільчыкавая Д. (Гродзенскі Брыгіцкі касцёл) і непаліваная вільчыкавая Д. з налепамі па шырокім краі (Мінская Петрапаўлаўская царква, манастыр базыльянак у Гродне). У гэты час, акрамя гладкай зялёнай і карычневай паліванай, выраблялі Д. з паверхняй у выглядзе рыбінай лускі (Гродна, Мсціслаў). У Мсціславе і Магілёве такая Д. часам была і паліхромнай. Да канца 18 — сярэдзіны 19 ст. Д. звычайна выраблялі мясц. ганчары разам з кафляй і посудам.

*А. А. Трусаў.*




Асноўныя тыпы **дахоўкі** 14—18 ст.: паўцыркульная (1—2,4), «бабровы хвост» (3), плоская (5—7, 9—11), вільчыкавая дэкаратыўная (18), вільчыкавая (12—14), хвалістая (15—16).

**ДА́ШКАЎКА,** група археал. помнікаў (стаянка каменнага веку, 3 гарадзішчы, селішча і курганны могільнік) каля в. Дашкаўка Магілёўскага р-на.

С т а я н к а эпохі мезаліту. За 2 км на Пн ад вёскі, на 2-й надпоймавай тэрасе правага берага Дняпра. Памер 120×40 м. Выявіў у 1928 А. Дз. Каваленя, даследаваў у 1974 і 1988 В. Ф. Капыцін, раскапана 12 м². Культурны пласт залягаў пад ворным гарызонтам глебы на глыб. 0,2—0,4 м.

Знойдзены крамянёвыя прылады працы — канцавыя скрабкі, у т. л. двайныя, рэтушныя разцы, абломак тронкавага наканечніка стралы, вастрыі, нажы і інш., а таксама дробныя асколкі і лускавінкі, адшчэпы, пласціны, нуклеусы.

С е л і ш ч а ранняга жал. веку. На тэрыторыі стаянкі. Выявіў у 1928 Каваленя, знойдзены фрагменты ляпной керамікі з шарахаватай паверхняй з дамешкам жарствы ў гліне. У 1974 Я. Р. Рыер выявіў фрагменты ганчарнай керамікі з лінейным арнаментам эпохі Кіеўскай Русі. Помнік абследавалі ў 1977 Л. У. Дучыц, у 1974 і 1988 Капыцін.

Г а р а д з і ш ч а-1. За 1,5 км на Пн ад вёскі, за 300 м на ПнУ ад стаянкі, на правым беразе Дняпра. Пляцоўка авальная, памер 27×20 м, з зах. боку ўмацавана 2 валамі выш. 1 і 2 м і ровам паміж імі глыб. 2,5 м. З паўн.-ўсх. боку знаходзіцца забалочаная пойма, з паўд.-ўсходняга — яр.

Г а р а д з і ш ч а-2. За 800 м на ПнУ ад вёскі, за 400 м на ПдУ ад гарадзішча-1, на правым беразе Дняпра. Пляцоўка авальная, памер 35×12 м, выш. над поймай Дняпра 14 м. З паўд.-зах. боку ўмацавана валам выш. 1 м і ровам глыб. да 0,5 м.

Г а р а д з і ш ч а-3. За 500 м на Пн ад вёскі, за 200 м на З ад рэчышча Дняпра. Пляцоўка дыям. 55 м, выш. над поймай Дняпра 9 м. З зах. боку ўмацавана 2 падковападобнымі валамі выш. да 2 м і ровам паміж імі глыб. да 1 м. З паўд. боку знаходзіцца яр. Абарончыя збудаванні і частка пляцоўкі, якая прымыкае да іх, разбураны кар'ерам. Культурны пласт 0,3—0,4 м. Пры шурфоўцы знойдзены фрагменты ляпной керамікі, падобнай на кераміку з селішча. Гарадзішчы адносяцца да ранняга жал. веку (1-е і 2-е, відаць, былі гарадзішчамі-сховішчамі). Вядомы з 1873, у 1892—94 планы помнікаў зняў С. Цэрхе. Абследавалі ў 1912 Е. Р. Раманаў, у 1928 Каваленя, у 1974 Рыер, у 1977 Дучыц, у 1989 Капыцін і А. А. Седзін.

К у р г а н н ы   м о г і л ь н і к. За 4,5 км на ПдЗ ад вёскі, каля дарогі на в. Боўшава, у хваёвым бары. 11 насыпаў выш. 0,5—1,5 м, дыям. 6—12 м. Курганы здзірванелыя, парослі дрэвамі і кустамі. Выявіў і абследаваў у 1989 Капыцін.

За 1 км на З ад вёскі, паводле звестак 1873, быў яшчэ 1 могільнік з 5 насыпаў (не захаваўся).

*Літ.*: 470, 904, 1046. *В. Ф. Капыцін.*




**Два грошы:** Р э ч   П а с п а л і т а я: 1. Ян II Казімір Ваза, 1651; 2. Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, 1766. В К Л: 3. Жыгімонт II Аўгуст, 1565.

**ДВА ГРО́ШЫ** (польск. dwojak два грошы), д в о я к, сярэбраная манета, эмітаваная *Віленскім манетным дваром* у 1565 (*лотавая проба* XIV, лігатурная маса 1,80 г), Быдгашчанскім манетным дваром (адзнакі двара гл. ў арт. *Манетныя двары Рэчы Паспалітай*) у 1650—52 (проба VII $^3/_4$, маса 1,24 г), Гданьскам, Торунем і Эльблёнгам у 1651—53 (проба VII $^3/_4$, маса 1,24 г), *Варшаўскім манетным дваром* у 1766—82 і 1785—88 (проба VII $^1/_5$, маса 3,34 г).

*Літ.*: 1671.

**ДВА РУБЛІ**, залатая манета Расіі 1718, 1721—28 *(залатніковая проба* 75, *лігатурная маса* 4,1 г). Адзнака наміналу — **два рублі.**

*Літ.*: 1620.

**ДВАЙНЫ ЎДАР ШТЭМПЕЛЯ**, прынятае ў нумізматыцы вызначэнне дэфекту, які бывае з-за змяшчэння манеты пры паўторным удары молата па штэмпелі. Выяўляецца на тым баку, які выконваецца верхнім штэмпелем.

Віды дэфектаў: супадае цэнтр манетнай кампазіцыі і змяшчаецца вось выяў; змяшчаецца цэнтр манетнай кампазіцыі і супадае вось выяў; змяшчаецца вось выяў і цэнтр кампазіцыі. Пры незамацаваным верхнім штэмпелі можа адбыцца неаднолькавае па напрамку і велічыні змяшчэння восей выяў і цэнтраў кампазіцый *аверса* і *рэверса*. Паўторныя (двайныя і трайныя) удары молата па штэмпелі, якія не прывялі да значнага скажэння малюнка і сляды якіх выяўляюцца амаль на ўсіх бітых манетах, пры апісанні манет не ўпамінаюцца. Д. ў. ш. не ўласцівы для манет, зробленых пры дапамозе прэса. Ад Д. ў. ш. трэба адрозніваць падваенне часткі малюнка манеты пры вальцоўцы (гл. ў арт. *Тэхніка манетнай справы).* *І. І. Сінчук.*

**ДВАРЧА́НЫ**, каменны могільнік канца 10—15 ст. каля в. Дварчаны Воранаўскага р-на. За 800 м на Пд ад вёскі, на правым беразе р. Дварчанкі, ва ўрочышчы Карначыха. Даследавалі ў 1885—95 В. А. Шукевіч (22 пахаванні), Э. А. Вольтэр (26), у 1982 А. В. Квяткоўская, 1984 Я. Г. Звяруга. У 1980-я г. могільнік зааараны. Магілы размяшчаліся сіметрычна, па некалькі ў адным радзе, у напрамку з У на З. Пад каменнымі вымасткамі (выш. 0,35—0,7 м) або каменна-землянымі насыпамі ў 4-вугольных падоўжаных ямах (глыб. 0,7—1,5 м) выяўлены трупапалажэнні галавой на ПдЗ, радзей на З. На магіле, часцей з зах. боку, знаходзіўся валун прыроднай формы ці апрацаваны. Пад вымасткамі (у галаве пахаванняў) выяўлены кавалкі керамікі, у запаўненні магіл — вуглі. Нябожчыкаў хавалі на спіне, абстаўляючы дошкамі (імітацыя труны), якія мелі сляды моцнага агню.

Разнастайны пахавальны інвентар прадстаўлены прыладамі працы (сякеры, нажы, крэсівы), упрыгожаннямі (сярэбраныя і бронзавыя пярсцёнкі, спражкі, скроневыя кольцы, медныя пласціны ад налобных павязак, бранзалеты, шкляныя пацеркі, крыжыкі, крыжападобная фібула з падвескай-лунніцай), дэнарыямі Вял. кн. Літоўскага, жал. шпорамі і інш. Адзінкавыя пахаванні безынвентарныя, у некаторых знойдзены цэлыя гліняныя гаршкі. *А. В. Квяткоўская.*

**ДВА́ЦЦАЦЬ КАПЕ́ЕК**, д в у г р ы в е н н ы, *намінал* грашовых эмісій Расійскай імперыі, РСФСР і СССР. Узнік у 2-й пал. 18 ст. ў вытворчасці *манетных двароў Расійскай дзяржавы.* 1) Р а с і й с к а я і м п е р ы я. Сярэбраная манета з наміналам — **20** і дваццаццю рэльефнымі кропкамі.

Выпускалі Пецярбургскі манетны двор у 1760 *(залатніковая проба* 72, *лігатурная маса* 4,80 г), 1762 (проба 72, маса 4,72 г), 1763 (проба $71^2/_3$, маса 4,80 г), 1764—76, 1778—79, 1781, 1783—93 (проба 72, маса 4,77 г); Красны манетны двор — 1764—70, 1775 (проба 72, маса 4,77 г). Адзнака наміналу — **20 копѣекъ.** Выпускалі Пецярбургскі манетны двор — 1810—11 (проба 72, маса 4,80 г), 1813—60 (проба $83^1/_3$, маса 4,15 г), 1860—66 (проба 72, маса 4,08 г), 1867—91, 1893—1917 (проба 48, маса 3,60 г); *Варшаўскі манетны двор* — 1857 (проба $83^1/_3$, маса 4,15 г). Адзнака наміналу — **20 копѣекъ — 40 groszy.** Гл. ў арт. *Манеты двухмоўныя.*



**Два рублі:** 1, 2. Пётр I, 1718; 3. Пётр II, 1727; 4. Кацярына II, 1785.

2) Р С Ф С Р. Сярэбраная манета з адзнакай наміналу **20 копеек.** Выпускалі Петраградскі манетны двор у 1921—23 (проба 48, маса 3,60 г). 3) С С С Р. Выпускалі Ленінградскі манетны двор у 1924—25, 1927—31 (серабро, проба 48, маса 3,60 г), 1931—46, 1948—57 (нікель, маса 3,6 г), 1961—62, з 1965 (меднанікелевы сплаў, маса 3,40 г), за выключэннем манеты 1967 (маса 4,3 г), прысвечанай 50-годдзю сав. улады (гл. ў арт. *Манеты мемарыяльныя СССР).*

*Літ.*: 1537,1615. *В. Н. Рабцэвіч.*

**ДВА́ЦЦАЦЬ ПЯЦЬ КАПЕ́ЕК**, сярэбраная манета Расійскай імперыі з адзнакай наміналу — **25 копѣекъ.** Выпускалі Пецярбургскі манетны двор у 1827—85 *(залатніковая проба* $83^1/_3$, *лігатурная маса* 5,18 г), 1886—96, 1900—01 (проба $86^2/_5$, маса 5 г); *Варшаўскі манетны двор* — 1854 і 1857 (проба $83^1/_3$, маса 5,18 г).

*Літ.*: 1620.

**ДВА́ЦЦАЦЬ РУБЛЁЎ**, залатая манета Расійскай імперыі вартасцю ў 2 *імперыялы.* Адзнака наміналу — **двадцать руб.** *(залатніковая проба* 88, *лігатурная маса* 33,14 г). Выпускаў Пецярбургскі манетны двор (адзнакі двара гл. ў арт. *Манетныя двары Расійскай дзяржавы*) у 1755.

*Літ.*: 1620.



**Двайны ўдар штэмпеля** на «угорскім» дукаце Фёдара Іванавіча [1584—98].




Пярсцёнак (1), бранзалет (2), крыжык (3), скроневае кольца (4), крыжападобная фібула з прывескай-лунніцай (5). з каменнага могільніка **Дварчаны.**



**Дваццаць рублёў** 1755.

**ДВОР САЛАНЕ́ВІЧЫ**, курганны могільнік каля в. Двор Саланевічы Полацкага р-на.

М о г і л ь н і к-1. За 500 м на ПдЗ ад вёскі, на беразе воз. Нявіда. 6 курганоў выш. 0,8—1 м, дыям.

**Дванцаць капеек.** Р а с і я: 1. Лізавета Пятроўна, 1760; 2—3. Кацярына II, 1770, 1787; 4. Аляксандр I, 1810; 5. Мікалай I, 1828; 6. Аляксандр II, 1857; 7. Аляксандр III, 1881; 8. Мікалай II, 1917. Р С Ф С Р: 9. 1921. С С С Р: 10—12. 1924, 1937, 1961.



**Дванцаць пяць капеек:** 1. Мікалай I, 1832; 2. Аляксандр II, 1867; 3—4. Аляксандр III, 1883, 1886; 5. Мікалай II, 1895.

6—8 м. Выявіў у 1949 А. Р. Мітрафанаў, даследаваў 2 курганы ў 1974 і 1975 Г. В. Штыхаў. Пахавальныя абрады — трупаспаленне і трупапалажэнне на гарызонце. У кургане з трупапалажэннем 3 пахаванні: ніжняе на мацерыку галавой на Пн, 2 другія над ім галовамі на З. Адзін касцяк памерам 1,75 м. Пахавальных рэчаў не было. У насыпе кургана знойдзены кавалак ляпнога гаршка 5—7 ст. і некалькі фрагментаў ганчарнай керамікі.

Могільнік-2. За 1,5 км на Пд ад вёскі, на паўд. беразе воз. Вялікі Бялёнак. 17 курганоў выш. 0,5—1,5 м, дыям. 8—10 м. Выявіў у 1949 Мітрафанаў. *Г. В. Штыхаў.*



Жалезныя разак і наральнік з селішча **Дворыцкая Слабада.**

**ДВО́РЫЦКАЯ СЛАБАДА́**, селішча каля в. Дворыцкая Слабада Мінскага р-на. На зах. ускраіне вёскі, за 150 м на Пн ад кальцавой дарогі. Пл. больш за 1 га. Даследаваў у 1986 Г. В. Штыхаў. На ўчастку 120×6 м выяўлены 11 ям глыб. 0,4—0,8 м, дыям. 1,6—4,2 м. Тры ямы, размешчаныя за 20—30 м адна ад адной, былі жытламі (у адной прасочаны сляды пажарышча).

Знойдзены жал. наральнік (даўж. 23,2 см, таўшч. 0,6 см), разак (даўж. 41,5 см, таўшч. 1,5 см), кавалак жал. абруча ад вядра, рэшткі бронзавых упрыгожанняў, жал. нажы, цвік, тачыльны камень, кераміка (некаторыя фрагменты з арнаментам і клеймамі ў выглядзе канцэнтрычных акружнасцей), шыфернае прасліца і інш. Некаторыя ямы з праслойкамі попелу і абпаленай гліны. Датуецца канцом 10—12 ст.

**ДВО́РЫШЧА**, археал. помнікі каля былой в. Дворышча (цяпер у межах г. Мінска).

Селішча. За 50—100 м на З ад вёскі, на левым беразе рэчышча былой р. Лошыцы. Адкрыў у 1986 С. Л. Захараў, даследаваў у 1986 Ю. А. Заяц. Культурны пласт 0,6—1 м. Знойдзены вырабы з жалеза, ганчарны посуд 10—12 ст.

Курганны могільнік. За 300 м на ПнЗ ад вёскі, каля могілак. Налічваў 77 насыпаў, размешчаных трыма групамі, захавалася 16 насыпаў дыям. 6—12 м, выш. 1—2,2 м. Даследавалі ў 1977 Г. В. Штыхаў (4 курганы), у 1986 Ю. А. Заяц (4 курганы). Пахаванні адзіночныя і парныя. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на мацерыку (у 2 курганах на падсыпцы) галавою на З (у 2 выпадках на Пн). У адным кургане пахавальны абрад — трупаспаленне.

Пахавальны інвентар — скроневыя пярсцёнкападобныя кольцы, пацеркі са шкла, сердаліку і металу; жал. крэсіва, нож, абручы і ручка ад вядра; бронзавыя ножны ад нажа, сярэбраная спражка і паяснае кольца, ганчарны посуд. На дне аднаго гаршка кляймо ў выглядзе трызубца.

Належаў пераважна дрыгавічам, датуецца 2-й пал. 10—11 ст.

*Ю. А. Заяц.*

**ДВО́ЯК**, беларуская, польская, укр. назва манеты наміналам у *два грошы* ў 16—17 ст.

**ДВУХГРЫ́ВЕННЫ**, папулярная назва манеты вартасцю *дваццаць капеек*.

**ДВУХПО́ЛЛЕ**, паселішча эпохі неаліту, ранняга бронзавага веку і *банцараўскай культуры* каля в. Двухполле Гарадоцкага р-на. За 500 м на ПдУ ад вёскі, на краі 1-й надпоймавай тэрасы р. Аўсянка. Пл. каля 0,5 га. Культурны пласт 0,4—0,6 м. Выявіў у 1972 Г. В. Штыхаў, даследаваў у 1982 Э. М. Зайкоўскі. У шурфе (2×2) знойдзена кераміка *нарвенскай культуры*, ранняга і найбольш позняга этапаў *паўночнабеларускай культуры*.

Кераміка апошняй культуры з дамешкамі жарствы і пяску ў гліне, яе паверхня гладкая, арнаментавана грабеньчатымі ўзорамі, спалучэннямі рамбічнай сеткі і буйных круглых ямак, прамавугольнымі наколамі, насечкамі, скампанаванымі ў ялінкавыя ўзоры. Сустракаецца камбінаваны арнамент. Выяўлены крамянёвыя прылады працы: скрабкі на адшчэпах, скобля, 2 рэтушоры, пласцінка з рэтушаванай выемкай, свярдзёлак, загатоўка сякеры ці наканечніка дроціка, ліістападобны наканечнік дзіды. У верхнім пласце трапляюцца фрагменты керамікі банцараўскай культуры.

*Літ.*: 393. *Э. М. Зайкоўскі.*

**ДЗВЕ КАПЕ́ЙКІ**, намінал грашовых эмісій Расійскай імперыі, РСФСР і СССР. З'явіўся ў 2-й пал. 18 ст. як пераемнік *гроша*. Выпускаўся рознымі *манетнымі дварамі Расійскай дзяржавы*. 1) Расійская імперыя. Медная манета з адзнакай наміналу **две копейки.**

Выпускалі Кадашаўскі двор у 1727 (маса 8,19 г); Пецярбургскі двор — 1740, 1763, 1788 (маса 20,48 г); Екацярынбургскі двор — 1763—79, 1789—91, 1795—96 (маса 20,48 г); Красны двор — 1763—67, 1788—89, 1795 (маса 20,48 г); Таўрыцкі двор — 1787—88 (маса 20,48 г); Анінскі двор — 1789—91, 1793—96 (маса 20,48 г); непазначаны двор — 1740, 1757—62 (маса 20,48 г). Адзнака наміналу — 2 — **две копейки** і 2 пяцікантовыя зорачкі: непазначаны двор — 1760, 1762 (маса 10,24 г).

Адзнака наміналу — **монета сибирская — две копейки,** на рэверсе — герб кн. Сібірскага (2 собаля



Гаршчок 10—11 ст. з курганнага могільніка **Дворышча.**



Пацеркі 10—11 з курганнага могільніка **Дворышча.**

трымаюць геральдычны шчыт, увянчаны княжацкай каронай).

Выпускалі Калыванскі двор — 1764, 1766—80 (маса 13,1 г). Адзнака наміналу — **две копейки** і 2 рэльефныя кропкі: непазначаны двор — 1796 (маса 10,24 г).

Адзнака наміналу — **2 копѣйки.**

Выпускалі Екацярынбургскі двор — 1797—1804, 1810 (маса 20,48 г), 1830—31, 1833, 1837—39 (маса 9,1 г), 1849—76 (маса 10,24 г); Калыванскі двор —

1797—1801 (маса 20,48 г); Сузунскі двор — 1804—05, 1807, 1810—30 (маса 13,65 г); Анінскі двор — 1797—98 (маса 20,48 г); Колпінскі двор — 1810—14 (маса 13,65 г); Пецярбургскі двор — 1810—14, 1830 (маса 13,65 г), 1849 (маса 10,24 г), 1867—71, 1876—1916 (маса 6,55 г); Сузунскі двор — 1831—39 (маса 9,10 г); *Варшаўскі манетны двор* — 1850—56, 1858—63 (маса 10,24 г).

Адзнака наміналу — **2 копѣйки серебромъ.**

Выпускалі Екацярынбургскі двор — 1839—44 (маса 20,48 г); Пецярбургскі двор — 1840—43 (маса 20,48 г); Сузунскі двор — 1839—47 (маса 20,48 г); Варшаўскі двор — 1848 (маса 20,48 г.).



Дзве капейкі. Расія: 1. Лізавета Пятроўна, 1759; 2—6. Кацярына II, 1763, 1790, 1796, 1777, 1787; 7—8. Аляксандр I, 1811; 9—10. Мікалай I, 1830, 1850; 11—12. Аляксандр II, 1863, 1869; 13. Аляксандр III, 1886; 14. Мікалай II, 1916. СССР: 15—17. 1931, 1941, 1979.

2) СССР. З адзнакай наміналу — **2 копейки.**

Выпускаў Ленінградскі манетны двор (адзнакі двара гл. ў арт. *Манетныя двары СССР*) — 1924—25 (медзь, маса 6,55 г), 1926—41, 1945—46, 1948—57 (бронза, маса 2 г), з 1961 (медна-цынкавы сплаў, маса 2 г).

*Літ.*: 1537, 1615. *В. Н. Рабцэвіч.*

**ДЗВЕ́РЫ,** створка ў праёме сцяны памяшкання, якая служыць для ўваходу і выхаду.

У будынках Стараж. Русі і на Беларусі перыяду сярэдневечча Дз. выраблялі з дошак, збітых 2 папярочнымі планкамі, якія накладвалі на дзвярное палатно ці ўстаўлялі ў пазы. Тарцовую стыкоўку рабілі ў асн. спосабам «у іглiцу» — трохвугольны выступ адной дошкі ўстаўляўся ў паз такой формы другой дошкі. Палатно Дз. рабілі з адной ці дзвюх-трох шырокіх дошак. Восевае вярчэнне і мацаванне Дз. забяспечваліся каванымі жал. завесамі або верхнім і ніжнім вертыкальнымі выступамі — шыпамі на адным з бакоў палатна верхняга і ніжняга кантаў, якія ўстаўлялі ў гнёзды адпаведных бярвён дзвярнога праёма. Верхні і ніжні канты Дз. абразалі хвалепадобна, з плаўным выгінам або па прамой наўскасяк ад вуглоў дзвярнога палатна да асновы шыпоў. Цэлыя Дз. і іх рэшткі 12—14 ст. знойдзены ў час археал. раскопак у Мінску, Брэсце, Полацку, Віцебску. Аналіз тэхналогіі і матэматычныя разлікі сведчаць пра выкарыстанне стараж. цеслярамі прынцыпу залатога сячэння. Напачатку збівалі шчыт-загатоўку, які служыў асновай і вызначаў памеры і канфігурацыю Дз.; яго шырыня была роўнай палавіне вышыні або дыяганалі шчыта. Потым выраблялі шыпы, верхні і ніжні абрэзы кантаў.

*Літ.*: 385, 702, 1001, 1347.

*П. А. Русаў.*

**ДЗЕВА́ШЫЧЫ,** археал. помнікі каля в. Дзевашычы Бялыніцкага р-на.

Паселішча. За 100 м на ПдУ ад вёскі, на правым беразе р. Аслік (Асліўка). Пл. каля 1,5 га. Адкрыў і абследаваў у 1975 Я. Р. Рыер. Культурны пласт 0,1 м. Знойдзены фрагменты ганчарнай керамікі 10—17 ст.

Курганны могільнік. За 100 м на У ад паселішча. 31 насып выш. 0,5—3,5 м, дыям. 3—12 м. Вядомы з 1924, даследаваў 1 курган у 1975 Рыер. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў насыпе. Пахавальны інвентар — фрагмент ганчарнай пасудзіны.

*Літ.*: 968.

**ДЗЕЛА**, старажытна-бел. назва гарматы.

**ДЗЕНГА** (ад татар. ценга — сярэбраная манета, дырхем), 1) руская грашовая адзінка без адзнакі наміналу, эмісія якой пачата вял. кн. маскоўскім Дзмітрыем Іванавічам Данскім [1359—89] у 1360-я г. або 1370-я г. Паміж 1425 і 1446 у маскоўскай чаканцы з'явілася выява конніка з шабляй, які пазней даў назву манеце Дз.— шабляніца. У 1380—1420-я г. пачалася вытворчасць Дз. *дзенежнымі дварамі* іншых княстваў.

Чаканка рабілася на сплюшчаных абрэзках сярэбранага дроту і таму мела форму няправільнага авала. Да сярэдзіны 1530-х г. Дз. чаканілася па *стапе* манетнай наўгародска-пскоўскай масай 0,78—0,79 г (260 штук з *грывенкі* серабра), роўнай 1/100 лікавага *рубля*, і маскоўска-цвярской стапе масай 0,39—0,40 г (520 штук з грывенкі), роўная 1/200 рубля. *Грашовай рэформай* 1533—35 утворана агульнарус. грашовая сістэма, паводле якой манетная стапа паменшана: Дз.-наўгародка, якая стала першай капейкай, чаканілася масай 0,68 г (300 штук з грывенкі), роўнай 1/100 лікавага рубля; Дз.-маскоўка (шабляніца) масай 0,34 г (600 штук з грывенкі), роўнай 1/200 рубля. Дз. стала палавіннай фракцыяй капейкі. Сярэбраная драцяная Дз. выпускалася рэгулярна да канца праўлення Фёдара Іванавіча [1584—98], пазней — у асобныя гады з пастаянным паніжэннем стапы: з 1613 масай 0,26—0,24 г, з 1926—0,24—0,23 г, з 1645—0,22 г. з 1698—0,14 г. Утрыманне серабра заставалася нязменным (*метрычная проба* 960). Залатая драцяная Дз. (часам залачонае серабро) спарадычна чаканілася штэмпелем сярэбранай Дз. ў 15—17 ст. (самы ранні — 1469), прызначана была для воінскіх узнагарод. Толькі ў 1610 выпушчана залатая плацежная Дз. з большым за сярэбраную ў 10 разоў курсам. З медзі чаканілася з 1655 штэмпелем сярэбранай Дз. з прымусовым курсам, роўным сярэбранай. Знята з абарачэння ў 1663.

2) Медная манета, парытэтная *паўкапейцы* або 1/200 рубля, уведзена ў Расіі *грашовай рэформай Пятра І*. Чаканілі *манетныя двары Расійскай дзяржавы*. Адзнака наміналу — **денга** (з 1797 — **деньга**).

Выпускалі: Набярэжны медны двор — 1700—01 (маса 6,40 г), 1701—04 (5,30 г), 1704—12 (4,27 і 4,10 г); Кадашаўскі двор — 1704—05, 1707—18 (4,10 г.; у выпусках 1708—09 ёсць экземпляры без пазначэння наміналу); Набярэжны медны або Красны двары — 1713, 1716—18 (4,10 г); невядомыя манетныя двары — 1713—39, 1741, 1743—54 (8,19 г); Пецярбургскі двор — 1740 (8,19 г), 1763, 1810 (5,12 г), 1810—12, 1828 (3,41 г); Красны двор — 1757—60 (5,12 г); Екацярынбургскі двор — 1764, 1766—76, 1786, 1789—90, 1793—1801, 1804—05, 1808 (5,12 г), 1810—11, 1813, 1815, 1818—19, 1822, 1825, 1827—28 (3,41 г); Калыванскі двор — 1783—95, 1797—99 (5,12 г); Таўрыцкі двор — 1787 (5,12 г); Анінскі двор — 1789, 1797—98 (5,12 г); Сузунскі двор — 1802, 1804—05, 1807 (5,12 г), 1811—17 (3,41 г); Колпінскі двор — 1810—14 (3,41 г).

Адзнака наміналу — **монета сибирская — денга**; на рэверсе — герб княства Сібірскага (2 собалі трымаюць геральдычны шчыт, увянчаны княжацкай каронай). Вы-



**Дзенга.** 1. Галіцка-валынскае княства, Юрый Дзмітрыевіч [1389—1434]; 2. Дзмітраўскае княства, Пётр Дзмітрыевіч [1389—1428]; 3. Мажайскае княства, Андрэй Дзмітрыевіч [1389—1432]; 4. Растоўскае княства, Андрэй Фёдаравіч [1331—1409]; 5. Цвярское княства (15 ст.); 6. Наўгародскае княства (15 ст.); 7. Маскоўскае княства, Васіль І [1389—1425]; Расія. 8—10 (10— залатая). Іван IV Грозны [1533—84]; 11. Фёдар Іванавіч [1584—98]; 12. Барыс Гадуноў [1598—1605]; 13 (залатая), Васіль IV Шуйскі [1606—10]; 14. Міхаіл Фёдаравіч [1613—45]; 15—16 (16— залатая). Аляксей Міхайлавіч [1645—76]; 17. Іван V Аляксеевіч [1682—96]; 18—19. Пётр І, недатаваная і 1700; 20—21. Кацярына II, 1790, 1777; 22. Аляксандр І, 1811; 23. Мікалай І, 1850; 24. Аляксандр II, 1863.

пускаў Калыванскі двор — 1764, 1766—79 (3,28 г).

Адзнака наміналу — **денежка.** Выпускалі Пецярбургскі двор — 1849 (2,56 г); Екацярынбургскі двор — 1849—67 (2,56 г); *Варшаўскі манетны двор* 1850—56, 1858—63 (2,56 г). У 19 ст. пачалася эмісія разнавіднасці Дз. з наміналам — $^1/_2$ **копейки.**

*Літ.*: 1605, 1606, 1617, 1620.

*В. Н. Рабцэвіч.*

**ДЗЕ́НЕЖКА,** гл. ў арт. *Дзенга.*

**ДЗЕ́НЕЖНЫ ДВОР,** прадпрыемства для вырабу сродкаў грашовага абарачэння ў Расіі 14— пач. 18 ст. На ўдзельнай Русі 14—15 ст. выраб грошай аддаваўся на водкуп рамеснікам-сярэбранікам. Напачатку выраблялі дзенгі (адсюль і назва). Бытавала практыка свабоднай чаканкі манет з серабра заказчыка (вял. князя, яго ўдзельных князёў і гандл. людзей) з дапамогаю *штэмпеля*, для вырабу якога з 15 ст. ўжываўся *матачнік.* У *тэхніцы манетнай справы* выкарыстоўвалася чаканка на дроце. У 14—15 ст. на Русі дзейнічала больш за 20 Дз. д. У 14 ст. яны выраблялі сярэбраную дзенгу, у 15 ст.— сярэбраную паўдзенгу, чацвератцу і медны *пул.*

Першы Дз. д. узнік у Маскоўскім вял. кн. ў 1360—70-я г., пазней яны дзейнічалі ў маскоўскіх удзелах: Малаяраслаўцы (працаваў да 1426), Дзмітраве (да 1428), Угліčы (да 1430-х г.), Галічы (да 1450-х г), Мажайску (да 1454) і Вярэі (да 1485). Дз. д. Разанскага кн. (1380-я г.—1474) да 1402 рабіў надчаканку (гл. *Контрамаркіраванне манет)* дырхемаў Залатой Арды літарнымі *пуансонамі* з дапамогай спец. кляйма-тамгі, да 1427 адначасова вырабляў *манеты-перайманні.* Пазней эмісіі набылі самастойны характар. Працавалі Дз. д. Яраслаўскага (пач. 15 ст.—1463) і Растоўскага (пач. 15 ст.— пач. 1470-х г.) княстваў, Цвярскога кн. (пасля 1400—1505), пазней ператварыўся ў перыферыйны Дз. д. Маскоўскага кн. З пач. 15 ст. свае Дз. д. мелі цвярскія ўдзелы: Дарагабуж (да 1437), Мікулін (да 1430-х г.). Гарадзен і Кашын (да 1461). Н а ў г а р о д с к і Дз. д. вёў самастойную чаканку ў 1420—56 і да 1478, нягледзячы на залежнасць ад Маскоўскага кн., працягваў выпуск дзенгі мясц. традыцыйнага тыпу, пасля чаго, як і Дз. д. Пскова (1425—1510), стаў перыферыйным дваром Маскоўскага кн. Грашовая рэформа 1533—35 Рускай цэнтралізаванай дзяржавы ўвяла агульнарус. грашовую сістэму, якая грунтавалася на сярэбраных *капейцы*, дзензе і палушцы. Двары перайшлі пад дзярж. кантроль, захаваўшы за сабой права свабоднай чаканкі, якую ажыццяўлялі на дагаворных пачатках арцелі («станіцы») майстроў-дзенежнікаў. Тэхніка вытворчасці не змяняецца. Нар. апалчэннем пад кіраўніцтвам К. Мініна і Дз. Пажарскага адкрыты Дз. д. у Я р а с л а ў л і (1612—13), які выпускаў капейку паменшанай масы з імем Фёдара Іванавіча [1584—98] і знакамі с/ꙖР, М, М, і Р а с т о в е (люты — красавік 1613), які выпускаў капейку са знакам Р. У 17 ст. Дз. д. ператвараюцца ў буйныя мануфактурныя прадпрыемствы (напр., на Маскоўскім двары ў сярэдзіне 17 ст. працавала больш за 200 майстроў). Пасля 1617 рэзка абмяжоўваецца права свабоднай чаканкі, а з манапаліяй дзяржавы на закупку серабра (1648) яно ліквідавана. Скарацілася колькасць цэнтраў дзенежнай вытворчасці. Засталіся Маскоўскі Дз. д. (у час праўлення Барыса Гадунова [1598—1605], за ім замацавалася роля вядучага), Наўгародскі і Пскоўскі. М а с к о ў с к і Дз. д. у Крамлі працаваў у 16—17 ст. бесперапынна. У 1605—06 выраблялў капейкі з імем Дзмітрыя Іванавіча (Ілжэдзмітрыя І), пры Васілю Іванавічу Шуйскім [1606—10] у канцы 1610 — залатыя капейку і дзенгу, у 1610—12 — сярэбраныя паменшанай масы і залатыя капейкі Уладзіслава Жыгімонтавіча. У 1655—63 адначасова з сярэбранымі чаканіліся медныя капейка і дзенга. Адзнакі двара — ДЕ (да 1547 — пач. 1550-х г.), К, ГР, ІВА (каля 1547), ПС, АЛ (1547—1550-я г.), ГА, ВАІА, к/ВА, к/МНХ, я/ДМ, о/АН, с/МН і інш. (паміж 1547 і 1584), ІВ (1550-я г.), ЮР (сярэдзіна 1550-х г.—1584), М, М, МО (з 1584), НЕ, ГО-РЬ (пасля 1595), с/ꙖР (пач. 1613), ОС/ К МО/СКВА, МОС/КВА, МОСК/ВА (з 1613). У 1654 зроблена спроба стварыць першы *манетны двор*, названы Н о в ы м (Англійскім), які акрамя *манет* выраблялў з дроту медныя алтыннікі (гл. *Алтын*, 1654), капейкі і дзенежкі (1655—63) з адзнакай — МД. Пасля 1663 застаўся ў Маскве адзін Дз. д., у канцы 17 — пач. 18 ст. да яго далучаюцца манетныя двары Красны (з 1697), Новы (з 1700) і Набярэжны сярэбраны (з 1701). Пасля 1718 выпуск драцяной капейкі спынены. Н а ў г а р о д с к і Дз. д. працаваў сістэматычна ў 1533—84, потым з перапынкамі. У 1611 чаканіў капейкі Уладзіслава Жыгімонтавіча, у 1611—17 шведскія інтэрвенты выпускалі сярэбраныя паменшанай масы капейкі штэмпелямі часоў Васіля Шуйскага. Пасля выгнання шведаў двор перачаканьваў цяжкавагавую капейку мінулых гадоў у новую больш лёгкую (да 1628). Пасля выпуску (1655—63) меднай капейкі быў закрыты. Адзнакі двара: ФС (1538—47), ПС (1547 — пач. 1550-х г), ГР (1547 — пач. 1570-х г.), АЛ (1550 — пач. 1560-х г.), з/ВА, Ꙗ/ДМ (да пач. 1580-х г.), НЕ (да 1596), в/НО (пасля 1596), Н/о, НД (пасля 1613). П с к о ў с к і Дз. д. працаваў у 16 ст. з працяглым (1538—47) перапынкам, у 1550-я г. яго дзейнасць дасягнула найбольшага размаху. У 1605—06 выпускаў капейкі Ілжэдзмітрыя І, з 1617, як і Наўгародскі, перачаканьваў старыя капейкі. Закрыты ў канцы 1620-х г. (магчыма, у 1628), аднавіў работу ў 1655 (выраблялў медныя капейкі), канчаткова закрыты ў 1663. Адзнакі двара — А (1535—38), ІВА, ГР (1547 — канец 1560-х г.), с/МН, ІВ-р, МА, Ѳ-р (канец 1560-х — 1580-я г.),



1



2

**Дзенежны двор** на мініяцюры з летапісу 16 ст. (1) і выява дзенежніка на аверсе цвярской пулы 15 ст.

ПС (пасля 1596). У 1656—61 у б. шведскай крэпасці Кукенойс, перайменаванай у Царэвічаў Дзмітрыеў Гарадок, адкрыты Дз. д., які выпрабляў медныя капейкі са знакамі Ца, Ц.

*Літ.*: 1556, 1558, 1605, 1615, 1641, 1642. *В. Н. Рабцэвіч.*

**ДЗЕСЯ́ТНІК,** назва рэальнай манеты вартасцю 9,5—11 *грошаў польскіх*, зафіксаваная ў дакументах Магілёўскага магістрата 1689—1700. Падобная рыначная каціроўка была ўласціва ў той час толькі прускаму зэхсгрошэру (шасціграшовік), таму назву Д. можна аднесці і да яго.

*Літ.*: 1543.

**ДЗЕ́СЯЦЬ ДЗЕ́НЕГ,** рускі сярэбраны намінал, парытэтны *пяці капейкам*. Уведзены *грашовай рэформай Пятра I*. Выпускаўся Красным або Кадашаўскім манетным дваром у 1701—02, 1704 (*залатніковая проба* каля 77, *лігатурная маса* каля 1,40 г).



Дзесяць дзенег 1701 (1), 1702 (2), 1704 (3).

**ДЗЕ́СЯЦЬ КАПЕ́ЕК,** намінал грашовых эмісій Расійскай імперыі, РСФСР і СССР. Узнік у 2-й пал. 18 ст. на змену грывеніку і чаканіўся рознымі манетнымі дварамі. 1) Расійская імперыя. Манета з адзнакай наміналу — **10 копѣекъ** (серабро).

Выпускалі Пецярбургскі двор у 1797 (*залатніковая проба* 83 1/3, *лігатурная маса* 2,93 г), 1798—99, 1801, 1804—05, 1808—10 (проба 83 1/3, маса 2,07 г), 1810—12 (проба 72, маса 2,40 г), 1813—60 (проба 83 1/3, маса, 2,07 г), 1860—66 (проба 72, маса 2,04 г), 1867—1917 (проба 48, маса 1,80 г); *Варшаўскі манетны двор* — 1854—55 (проба 83 1/3, маса 2,07 г); медныя Дз. к.: Пецярбургскі двор — 1830 (маса 45, 50 г); Екацярынбургскі двор — 1830—39 (маса 45,50 г), Сузунскі двор — 1831—39 (маса 45,50 г).

Адзнака наміналу — **10 десять копѣекъ** (медзь). Выпускалі Анінскі і Екацярынбургскі двары — 1796 (маса 51,19 г).

Адзнака наміналу — **10 десять копѣекъ** і 10 рэльефных 5-прамянёвых зорачак (медзь): без адзнак двара — 1762 (маса 51,19 г).

Адзнака наміналу **10 десять копѣекъ** і 10 буйных рэльефных кропак у лінейным кружку (медзь): без адзнак двара — 1796 (маса 51,19 г). Адзнака наміналу — **монета сибирская — десять копѣекъ** (медзь): на *рэверсе* — герб кн. Сібірскага (2 собалі трымаюць геральдычны шчыт, увянчаны княжацкай каронай). Выпускаў Калыванскі двор — 1763—64, 1766—81 (маса 65,52 г). Адзнака наміналу — **10 копѣекъ — 20 groszy** (серабро). Выпускаў Варшаўскі двор — 1842 (проба 83 1/3, маса 2,07 г).

2) РСФСР. Адзнака наміналу — **10 копеек** (серабро).

Выпускаў Петраградскі манетны двор (адзнакі манетнага двара гл. ў ар-

**Дзесяць капеек.** 1—2. Расійская імперыя: Кацярына II 1796, 1777; 3. Павел I, 1798; 4—5. Аляксандр I, 1809, 1811; 6—8. Мікалай I, 1826, 1827, 1834; 9. Аляксандр II, 1867; 10. Аляксандр III, 1886; 11. Мікалай II, 1916. РСФСР: 12. 1921. СССР: 13—16. 1924, 1934, 1935, 1979.

*Манетныя двары Расійскай дзяржавы)* — 1921—23 (проба 48, маса 1,80 г).

3) СССР. Адзнака наміналу — **10 копеек.**

Выпускае Ленінградскі манетны двор — 1924—25, 1927—31 (серабро, проба 48, маса 1,80 г), 1931—46, 1949—57 (нікель, маса 1,80 г), з 1961 (медна-нікелевы сплаў, маса 1,60 г), выключэнне — манета 1967 (маса 2,8 г), прысвечаная 50-годдзю савецкай улады (гл. ў арт. *Манеты мемарыяльныя СССР).*

*Літ.*: 1537, 1615. *В. Н. Рабцэвіч.*

**ДЗЕСЯЦЬ РУБЛЁЎ,** залатая манета Расіі 2-й пал. 18 — пач. 20 ст. Адзнака наміналу — **десять рублей.**

Выпускалі Красны манетны двор у 1756, 1758, 1762—63; Пецярбургскі манетны двор — 1755—59, 1762—83, 1785—86, 1795—96, 1802, 1804—05. Адзнака наміналу — **10 рублей.** Выпускаў Пецярбургскі двор — 1886—96, 1898—1904, 1906, 1909—11. Адзнака наміналу — **империал. 10 рублей золотом.** Выпускаў Пецярбургскі двор — 1896—97. З *залатніковай пробай* 88 Дз. р. 1755—96, пробай 94 $^2/_3$ — 1802—05, пробай 86 $^2/_5$—1886—1911; з лігатурнай масай 16,57 г. Дз. р. 1755—63, масай 13,09 г — 1764—96, масай 12.17 г — 1802—05. масай 12.90 г — 1886—96, масай 8,60 г — 1897—1911.

*Літ.*: 1537, 1620, 1731.

**ДЗІДА,** гл. ў арт. *Кап'ё.*

**ДЗІСЕНСКІ ЗАМАК.** Існаваў у 14—18 ст. на востраве Замак каля сутокаў рэк Дзісна і Зах. Дзвіна ў Міёрскім р-не. Узнік у 14 ст. на месцы стараж. паселішча 11 ст. Па дакументах 16 ст. вядомы як «Капец-гарадок». У хроніках Лівонскага ордэна зафіксаваны каля 1374 і 1377 пад назвай «Новы замак рускіх», адзначаны замкавы мост, які звязваў замак з берагам. Займаў пл. каля 5 га. Археал. раскопкамі пацверджана, што першапачаткова вал замка быў насыпаны з пяску і ўмацаваны з боку Зах. Дзвіны пластом вязкай сіняватӓй гліны, яго аснова вымашчана дубовымі плахамі. Гліняны пласт засцерагаў вал ад размывання дажджавымі і веснавымі паводкамі. Вышыня вала пасля некалькіх падсыпак дасягнула 5 м. На яго вяршыні спачатку стаяў дубовы частакол, які пазней заменены гароднямі. Дз. з. меў зручныя прыродныя «крэпасці самародныя»: шыр. Зах. Дзвіны, якая абмывала яго з Пн, дасягала 100 м, шыр. Дзісны, што працякала з Пд — 80—90 м. Пляцоўка вострава ўзвышалася над узроўнем вады на 10—12 м, а з улікам вышыні вала і абарончых сцен магутнасць замка значна павялічвалася. У 16—17 ст. замкавы вал быў выш. 10 м і шыр. у аснове каля 19 м. На подступах да замка па вадзе шлях перагароджвалі «Нікольскія парогі».

У 14 — пач. 15 ст. Дз. з. выконваў ролю фарпоста Полацка на Зах. Дзвіне, які кантраляваў увесь рух па рацэ і подступы да сталіцы Полацкай зямлі. Пасля Грунвальдскай бітвы 1410 і паражэння крыжакоў Дз. з. страціў ранейшае стратэгічнае значэнне. У дакументах за 1414, 1461, 1500 і 1552 Дзісна згадваецца як паселішча ці «двор», звесткі пра замак адсутнічаюць. Відаць, ён прыйшоў у заняпад. Пазнейшыя звесткі пра дзісенскія ўмацаванні адносяцца да пач. Лівонскай вайны 1558—83 і падзення ў 1564 Полацка. У процівагу Полацку, занятаму войскамі Івана IV Грознага, Дз. з. быў адноўлены. Ваенна-фартыфікацыйнымі работамі кіравалі «рыцер и военник добрый», дзяржаўца крычаўскі і дзісенскі Баркулаб Іванавіч Корсак і пан Раман Хадкевіч. Значна павялічылася колькасць насельніцтва Дзісны за кошт бежанцаў і ўцекачоў з Полаччыны, якія «...домы собе побудовавшы, острог немалый около места и вежы при нем коштом и накладом своим властным заробили, делы (гарматамі), гаковницами, ручницами, водле можности своее, на тот час бакшты заспособили». Паводле перамір'я 1563, калі былі «писаны рубежи городу Полоцку и Полоцкому повету», Дзісна яшчэ ўпамінаецца ў рус. крыніцах як «Копец-городок». Прылеглыя да замка землі належалі полацкаму ўладыку і называліся «Парогі». Кароль Жыгімонт II Аўгуст высока цаніў стратэгічнае значэнне адноўленага Дз. з., адзначаў, што «замок наш Дисенский есть особливою обороною от неприятеля нашего, князя великого Московского, тому панству нашому Великому княжеству Литовскому». У 1566 ён загадаў Б. І. Корсаку «при замку нашом Дисеньском место осаживать» і абвясціць на 8 гадоў розныя льготы і «слаботы». Для мяшчан і мясц. казакоў найважнейшай умовай жыцця ў горадзе быў абавязак «работу остроговую робити и сторожу мевати по тому, яко державца таможний с ними постановить». У 1569 пад аховай Дз. з. на левым беразе Дзісны пачалося будаўніцтва новага горада — «места Дисна», якому кароль адвёў 336 га зямлі. У 1579 Дз. з. стаў цэнтрам збору войск С. Баторыя перад паходам на Полацк. Польскі гісторык А. Гваньіні адзначаў, што тут «вялікі замак, абведзены непрыступным і моцным валам, прыстасаваны да абароны гарматамі і рознай амуніцыяй». Пасля Лівонскай вайны замак паступова прыйшоў у заняпад, што прывяло да здачы яго 25.7.1654 войску рус. ваявод В. П. Шарамецьева і С. Стрэшнева. З удзелам мясц. жыхароў умацаванні замка былі хутка адноўлены. Паводле дакументаў за 1655, ён меў 14 вежаў, у т. л. 2 Дзвінскія і Дзісенскую брамы, 2 «форткі» да р. Дзісна. Попіс замка называе наступныя вежы: «новая ля крыжа над Дзіною, новая ля старога Мніскага касцёла, старая Пытачная, вежа Пясочная, Новая Свенская, Старая Крывая, новая Вуглавая, новая ля Тапучага ручая, Плоская, Мосарская». Яны былі прамавугольныя ў плане, амаль усе памерам 8,5×8,5 м, 2-ярусныя, выш. каля 9 м, накрытыя дранкай. З боку поля вежы секліся ў 2 бервяны, на інш. участках — у адно. Абарончыя сцены былі 2 тыпаў — стаячы астрог і рубленыя тарасы, засыпаныя ўнутры зямлёй, з верхнім «боем» і бярвёнамі-«каткамі», якія скідвалі са сцен на праціўніка. На сценах стаяла 40 гармат розных калібраў. У сувязі з вайной Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 і разбурэннямі горада жыхары зноў перасяліліся на востраў, дзе абнеслі сваё паселішча драўлянымі ўмацаваннямі. Так утварыўся Ніжні замак, вядомы па шэрагу тагачасных крыніц. Умацаванні больш ранняга перыяду сталі называцца Верхнім замкам. 10.4.1660 шляхта, казакі, дзісенскія мяшчане і паявтовыя мужыкі, якія сядзелі ў аблозе ў Дз. з., зрабілі пераварот, звязалі рус. гарнізон і адчынілі браму перад войскам С. Юдыцкага. Бурмістра, які ў 1654 здаў горад рус. войску, змоўшчыкі павесілі ў замкавай браме. Да канца вайны ў Дз. з. размяшчаўся значны гарнізон, было 27 бронзавых і жал. гармат, 41 гакаўніца, 4 драбавікі-«шротаўніцы», ядры, гранаты, карцечныя зарады, сера, порах, свінец і інш. Знішчэнне Дз. з. прыпадае на Паўн. вайну 1700—21. Дзісна поўнасцю згарэла 15.7.1700, у 1720 пажар паўтарыўся. Зброя з замкавага цэйхгауза паступова была вывезена гетманам М. К. Пацам і панамі з навакольных маёнткаў. 2 гарматы забралі ксяндзы Даўгінаўскага касцёла. У 1770-я г. маёр кароннага войска Ф. Навіцкі зрабіў тапаграфічную здымку Дз. з. і запісаў, што «цяпер вада і лёд зусім знеслі многія валы, вышэй якіх у горадзе не было ніводнага места, рэшткі валоў і замчышча зараслі лазою і ў паводку залівающа вадой». Апрача гэтага, схілы валоў разворваліся, ад чаго насып аплываў.

*Літ.:* 220, 229, 928, 1044, 1432.

*М. А. Ткачоў.*



Прарысоўка кафлі канца 16— пач. 17 ст. з раскопак г. **Дзісна.**

**ДЗІСНА,** горад у Міёрскім р-не, на левым беразе Зах. Дзвіны пры ўпадзенні ў яе р. Дзісна. За 45 км ад Міёраў, 12 км ад чыг. ст. Боркавічы на лініі Полацк — Даўгаўпілс. Першапачатковае паселішча старажытнай Дз. знаходзілася на мысе правага берага р. Дзісна (цяпер штучная выспа ў вусці ракі). Паводле некаторых звестак, у 10—11 ст. полацкія крывічы заснавалі тут абарончы і гандл. пункт Полацкага кн. (наз. Капец). Верагодна, на левым беразе Дзісны знаходзіўся гарадскі некро-

паль (знаходкі імпартных пацерак 10—11 ст.), але з 13 ст. гэта тэрыторыя паступова была заселена. З 1301 Дз. ў складзе Вял. кн. Літоўскага. Упершыню ўпамінаецца ў метрыцы ВКЛ пад 1461. Да сярэдзіны 16 ст. невял. паселішча, якое паступова страціла сваё стратэгічнае значэнне. З 1563 мястэчка. Пасля захопу Полацка рус. войскамі ў час Лівонскай вайны 1558—83 Дз. зноў становіцца адным з найважнейшых фарпостаў на Зах. Дзвіне. Тут пабудаваны *Дзісенскі замак*, узведзены земляныя ўмацаванні, выкапаны роў. У 1567 Дз. атрымала герб (выявы трох мураваных вежаў). На левым беразе р. Дзісны склаўся другі цэнтр горада, з рынкам у цэнтры, ратушай і пушкарняй, умацаваны валам і астрогам. У 1569 Дз. атрымала магдэбургскае права і новы герб (выява ладдзі ў блакітным полі). У 1649 Дз. вынішчана пажарам. У руска-польскую вайну 1654—67 горад і замак неаднаразова пераходзілі з рук у рукі. У 17 ст. цэнтр старосства, гандл.-рамесніцкі цэнтр. З канца 17 ст. фактычна губляе стратэгічнае значэнне. У Паўн. вайну 1700—21 разбурана. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай Дз. ў складзе Расіі. Археал. даследаванні ў горадзе праводзілі ў 1974 М. А. Ткачоў, у 1984—85 Э. М. Зайкоўскі (44 м$^2$), у 1987—88 В. Я. Зайцава (456 м$^2$). Выяўлены рэшткі гар. умацаванняў (бярвенне, цэгла-пальчатка), фрагменты гаршкоў 11 ст., 2-й пал. 13—14 ст.

*Літ.:* 342, 443, 759, 1188, 1274, 1432. *В. Я. Зайцава.*

**ДЗІЎНАЎСКІ МУЗЕЙ МАСТАЦТВА І ЭТНАГРАФІІ.** Адкрыты ў 1982 у в. Дзіўная Шаркоўшчынскага р-на ў будынку б. лютэранскага храма 19 ст. Працуе на грамадскіх пачатках. У экспазіцыі творы нар. ганчарства, кавальства, пляцення з лазы і саломкі, ткацтва, жывапісныя і графічныя творы бел. мастакоў. Археал. экспанатаў каля 30 (1990), у т. л. ляпны гаршчок 8—9 ст. культуры доўгіх курганоў, ганчарны гаршчок 11 ст., каменная ліцейная форма, жал. наканечнікі стрэл, шыла, цвікі, абломкі нажоў, упрыгожанні (пацеркі 10—11 ст., арнаментаваны бранзалет, бронзавая падвеска 10 ст., абломак арнаментаванай шыйнай грыўні), бронзавыя скроневыя кольцы крывічоў, фрагмент арабскай манеты 786—809, арабская манета 933 з раскопак гарадзішча *Дзіўная*.

*Літ.:* 1036. *К. Б. Бягун.*

**ДЗІЎНАЯ,** гарадзішча полацкіх крывічоў каля в. Дзіўная Шаркоўшчынскага р-на. У вёсцы, на мысе правага берага р. Мнюта. Мясц. назва Гарадзец. Пляцоўка трохвугольная, пл. 1 га. Выш. пляцоўкі над узроўнем вады ў рацэ ў межань 20 м. З паўн. боку ўмацавана валам даўж. 100 м, выш. 5 м. З паўн.-ўсх. боку каля вала ўваход на гарадзішча. Выявіў у канцы 19 ст. Ф. В. Пакроўскі, абследавалі ў 1938 А. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіч, у 1949 А. Р. Мітрафанаў, у 1972 Я. Г. Звяруга, у 1973 і 1981 даследаваў 52 м$^2$ у паўн.-ўсх. і 56 м$^2$ у паўн.-зах. частках гарадзішча Г. В. Штыхаў. Культурны пласт 0,3—1,3 м.

Знойдзены значная колькасць ляпнога посуду (8—9 ст.), трапецападобная бронзавая падвеска, каменная форма для адліўкі жаночых упрыгожанняў, жал. шлакі, пацерка-лімонка, 2 вял. скроневыя бранзалетападобныя кольцы, пласціністы бранзалет з арнаментам, ганчарны посуд (10—11 ст.), фрагменты арабскага сярэбранага дырхема Абасідаў, цэлая манета Саманідаў. У насыпе вала выяўлены 2 падсыпкі, рэшткі згарэлага бярвення, ляпная кераміка. Раскопкі пацвердзілі знаходжанне тут умацаванага паселішча (8—9 ст.), росквіт якога прыпадае на 10—1-ю пал. 11 ст.

У 15—17 ст. на гарадзішчы размяшчалася феад. сядзіба. Датуецца 8—11 ст.

*Літ.:* 1334. *Г. В. Штыхаў.*

**ДЗМІТРАВІЧЫ,** археал. помнікі мілаградскай і зарубінецкай культур каля в. Дзмітравічы Бярэзінскага р-на.

Г а р а д з і ш ч а. За 400 м на Пд ад вёскі, на левым беразе р. Брусяты, ва ўрочышчы Замак (Залоззе). Пляцоўка памерам 45×45 м, выш. 7—8 м над поймай ракі. З боку поля гарадзішча ўмацавана 2 валамі выш. 1—3 м і равамі глыб. да 3,5 м і шыр. да 15 м, частка іх знішчана пры пракладцы дарогі. Трэці вонкавы вал выш. да 1 м, шыр 6—7 м. Адкрылі і абследавалі ў 1929 І. Р. Калодкін і М. М. Канвісараў, абследавала ў 1979 Т. С. Бубенька, даследаваў 200 м$^2$ у 1987—89 Л. Д. Побаль. Культурны пласт 0,6—0,8 м. Выяўлены рэшткі жылых і гасп. пабудоў слупавой канструкцыі, каменныя вогнішчы, ямы-сховішчы.

Знойдзены абломкі жал. наканечнікаў коп'яў, сякер, нажы, сярпы, шылы, кольцы, пінцэт, керамічны глянцаваны посуд (часткова штрыхаваны), гліняныя праслiцы розных форм і памераў (гладкія і арнаметнаваныя матывамі язычніцкай сімволікі), грузікі, крыжападобныя падвескі, пацеркі, культавы посуд, каменныя брускі, зерняцёркі, абломкі каменных сякер, бронзавыя і сярэбраныя трапецападобныя падвескі, прылады бронзаліцейнай вытворчасці (гліняныя тыглі і льячкі).

К у р г а н н ы я  м о г і л ь н і к і. На У ад гарадзішча, на месцы сучасных жывёлагадоўчых пабудоў, за 100—150 м на ПнЗ ад гарадзішча, на левым беразе безыменнага ручая. Выяўлены ў 2-й пал. 19 ст. (апісальныя лісты Мінскага губернатарства). Пазней знішчаны пры забудове.

С е л і ш ч а. На З ад гарадзішча, уздоўж берага ракі (даўж. 500—700 м). Абследаваў у 1987 Побаль. Знойдзены шлакі і абломкі посуду.

*Літ.:* 1024. *Л. Д. Побаль.*

**ДЗЮТХЕН,** назва *трох грошаў* у паўд. Германіі і Венгрыі ў 16—17 ст. Паходзіць, магчыма, ад польскага слова dudek (удод) як іранічная назва дзярж. герба Польшчы — аднагаловага арла, выбітага на рэверсе першага траяка 1528.

**ДЗЯВІЧКІ,** гарадзішча *днепра-дзвінскай культуры* каля в. Дзявічкі Полацкага р-на. За 1 км на У ад вёскі, на стромкім і высокім (8—10 м ад асновы) узгорку, на карэнным левым беразе р. Палаты. Умацавана валам і ровам. На Пн, ПнУ і ПнЗ ад гарадзішча знаходзілася шырокая і моцна забалочаная пойма ракі (цяпер асушана). Пляцоўка авальная, памер 40×28 м. Абследаваў у 1929 А. М. Ляўданскі, даследавалі ў 1954 А. Р. Мітрафанаў, у 1965 К. П. Шут. Ускрыта больш за 100 м$^2$. Культурны пласт у цэнтры пляцоўкі да 0,7 м, па краях 1,5—1,25 м.

Знойдзены ляпная гладкасценная кераміка, вырабы з косці (долаты, вастрыі, шылы), з каменю (сякера-клін, клінападобныя пласціны), жалеза (долатападобная прылада, нажы, шылы, серп), шлакі, шмат касцей свойскіх і дзікіх жывёл.

Датуецца 3 ст. да н. э.— 2 ст. н. э.

*Літ.:* 847. *А. Р. Мітрафанаў.*

**«ДЗЯВОЧАЯ ГАРА»,** Д з е в я ц і - г а р а, этнаграфічна-археал. помнікі ў выглядзе культавых узгоркаў, гор, курганоў, гарадзішчаў і інш., якія ўшаноўваліся з часоў язычніцтва.

Узгоркі з назвай тыпу «Дз. Г.» і інш. часта сустракаюцца на слав. землях — «Дз. Г.» каля Смаленска (Расія), у Трыполлі на р. Дняпро, Сахноўцы на р. Рось, на р. Лыбедзь (Украіна), «Дзевін» у Празе, Хебе, Мімоне, на р. Дыя (Чэхія), на р. Дунай (Славакія), у Балгарыі і інш. Паводле меркавання Б. А. Рыбакова, «Дз. Г.» маглі быць звязаны з культам жаночага бажаства, багіняй-дзевай, «панёсшай у лоне сваім», якая з'яўлялася папярэдніцай хрысціянскай багародзіцы дзевы Марыі. Часта з такімі ўзгоркамі звязвалі вельмі стараж. рытуальныя традыцыі і паданні, якія генетычна паходзілі ад культу язычніцкай багіні кахання. Пры археал. даследаваннях некаторых помнікаў высветлена, што, напр., у цэнтры «Дз. Г.» ў Трыполлі знаходзіўся *ахвярнік* — печ пачатку нашай эры з 9 паўсферычнымі секцыямі-паглыбленнямі. На думку Рыбакова, лічба 9 у спалучэнні з жаночай назвай свяшчэннай гары можа быць звязана з 9 месяцамі цяжарнасці. На «Дз. Г.» ў Сахноўцы знойдзена скіфская залатая пласціна з выявай свята ў гонар нейкага жаночага бажаства. Ахвярнік пач. 10 ст. (час рэстаўрацыі язычніцтва, пасля разгрому Вялікамараўскага княства) з 9 ямамі выяўлены на гарадзішчы Паганскае ў Маравіі. Каля яго знаходзяцца 2 гары з назвай «Дзевін» і р. Дыя («багіня»). «Дз. Г.» ўшаноўваліся да 20 ст., пра што сведчыць, напр., традыцыя ўстаноўкі драўляных крыжоў на «Дз. Г.» ў Сахноўцы.

На Беларусі захавалася некалькі

помнікаў з назвай «Дз. Г.». У 1-й пал. 19 ст. З. Я. Даленга-Хадакоўскі згадваў аднайменнае гарадзішча ў ваколіцах в. Любонічы (цяпер Кіраўскі р-н). У шэрагу выпадкаў помнікі з назвай «Дз. Г.» мелі блізкія па значэнні назвы — «Паненская Гара», «Мар'іна Горка». На ўскраіне Лагойска знаходзіцца гарадзішча «Паненская Гара», дзе выяўлена кераміка ранняга жал. веку. З гарой звязана паданне пра загінуўшую тут дзяўчыну, выкарыстанае потым В. Дуніным-Марцінкевічам у вершаванай аповесці «Вечарніцы» (1855). Пра «Мар'іну Горку» ў Пухавіцкім р-не захавалася паданне, што на ёй знаходзіўся культавы камень, якому пакланяліся язычнікі і наладжвалі тут трызны і гульні. Потым духоўнік асвяціў гэта месца святой вадой, пасля чаго гара раскалолася і камень праваліўся. Падобны помнік захаваўся паміж вёскамі Гудавічы і Верхлес Чэрвеньскага р-на (гл. *Гудавіцкае свяцілішча*). Пасля ўвядзення хрысціянства некаторыя ўзгоркі, звязаныя раней з культам багіні-дзевы, сталі прысвячацца дзеве Марыі — Маці Боскай. Найб. даследваны падобныя помнікі ў *Мсціславе* і на тэр. Валожынскага р-на (гл. *Дуброва*).

*Літ.:* 1014, 1015, 1328.

*Э. М. Зайкоўскі.*

**ДЗЯГЦЯ́НСКІ МАНЕ́ТНА-РЭЧАВЫ СКАРБ.** Знойдзены на ўскраіне в. Дзягцяны Капыльскага р-на ў 1957 на глыб. 0,6—0,7 м у круглым арнаментаваным гаршку з ручкай.

Зберагліся 21 фрагмент сярэбраных ювелірных вырабаў з дробным зярненнем і сканню, 320 манет: дэнарыі Англіі (10), Венгрыі (3), Германскай імперыі (165), Даніі (1), Чэхіі (123), нявызначаныя (4), манеты-перайманні дэнарыяў Англіі (3) і Германіі (9), куфіцкія дырхемы Арабскага халіфата, Абасідаў (фрагменты). Ухаваны каля 1050. Па колькасці чэшскіх дэнарыяў скарб не мае аналагаў на тэр. Усх. Еўропы.

*Літ.:* 1518, 1566, 1583. *В. Н. Рабцэвіч.*

**ДЗЯДЗІ́ЛАВІЧЫ,** гарадзішча *штрыхаванай керамікі культуры* і паселішча *банцараўскай культуры* каля в. Дзядзілавічы Барысаўскага р-на.

Гарадзішча. За 5,7 км на З ад вёскі, на левым беразе р. Цна, на вяршыні высокага (каля 42 м ад асновы) узвышша. Мясц. назва Замкавая гара. Авальная пляцоўка памерам 42×28 м умацавана 2 валамі і 2 равамі. Першы вал праходзіць па схіле ўзгорка на 4 м ніжэй за край пляцоўкі, другі — на 2—3 м ніжэй першага. Выш. валоў 1—2 м, шыр. ў аснове 10 м. Глыб. равоў 1,5—2 м, шыр. да 10 м. Адкрыў і даследаваў 70 м² у 1962 А. Р. Мітрафанаў.

Знойдзены абломкі рабрыстых слоікавых гаршкоў, гліняныя праслiцы, жал. сякерападобная прылада для апрацоўкі дрэва, посахападобная шпілька, рэшткі наземных жытлаў слупавой канструкцыі.

Датуецца 1—4 ст.

Паселішча. Побач з гарадзішчам, на спусцістых схілах узгорка. Пл. 5—6 га. Адкрыў у 1962, даследаваў 4256 м² у 1962—66 Мітрафанаў. Выяўлены рэшткі 54 пабудоў зрубнай і слупавой канструкцый, большасць з якіх была жытламі. Паўзямлянкі пл. 7,2—16,8 м² (сцены 2,8—4,3×2,6—3,9 м) урэзаны ў схіл узгорка. Унутры жытлаў, часцей у далёкім ад увахода куце, размяшчаліся печы-каменкі (круглыя дыям. 0,8—0,95 м, або авальныя дыям. 1—1,1×0,9—0,95 м), цалкам захаваліся ў 3 жытлах. Печы складзены з камянёў цэглападобнай формы,



Рэчы з **Дзягцянскага манетна-рэчавага скарбу.**



Планы і профілі жытлаў з паселішча **Дзядзілавічы.**

памеры ад 8—10 да 40—45 см у папярочніку. Скляпенне печы (выш. 27—40 см) мацавалася каменнымі клінамі, пярэдняя яго частка апіралася на вял. камяні. Чарэнь печы яйцападобнай формы (даўж. 60—70, шыр. да 45 см) вузкай часткай звернута да яе вусця (шыр. 25—30, выш. 25—27 см). У 5 жытлах агнішча ў выглядзе вымасткі з дробных камянёў з вуголлем і попелам або пясчана-вугольны пласт таўшч. 15—20 см. Пабудовы без печаў меншых памераў (5—6 м²) былі дапаможнымі памяшканнямі, унутры аднаго з іх выяўлена невял. яма, на краі якой ляжалі жорны.

Знойдзены ляпныя гладкасценныя слабапрафіляваныя пасудзіны з амаль вертыкальным венчыкам, падоўжанай шыйкай, слабавыражаным плечуком і цюльпанападобныя пасудзіны з адагнутым венчыкам, падоўжанай шыйкай і апушчаным плечуком, міскі, міскападобныя гаршкі, патэльні, жал. абломак сякеры, серп і нож для жніва, бронзавыя трапецападобныя падвескі, званочак выш. 1 см і шыр. 1,6 см, пярсцёнкі, скроневае кольца, бранзалеты, гліняныя праслiцы, коп'і, шпоры і інш.

Датуецца 6—8 ст.

*Літ.:* 785, 847. *А. Р. Мітрафанаў.*

**ДЗЯДЗІ́НЕЦ,** 1) цэнтральная частка сядзібы, двор. 2) Цэнтр. частка стараж. горада (стараж.-рус. детинец), умацаваная драўляным тынам, равамі і валамі (пазней мураванымі сценамі і драўлянымі вежамі), своеасаблівы цэнтр горада, дзе размяшчаліся адм. і культавыя пабудовы, жылі князь з дружынай, яго чэлядзь, гандляры, рамеснікі, духавенства. Найчасцей размяшчаўся на мысе пры сутоках рэк (у Мінску пры сутоках Нямігі і Свіслачы, у Полацку — Палаты і Зах. Дзвіны). Пл. ад 1 да 7 га (полацкага каля 7 га, мінскага 3 га, віцебскага 2,5 га, друцкага каля 1 га). У стараж. летапісах слова «Дединец» ужывалася да 14 ст.

*Літ.:* 956, 1181.

**ДЗЯ́КАВІЧЫ,** курганныя могільнікі дрыгавічоў каля в. Дзякавічы Жыткавіцкага р-на. За 2 км на ПдЗ ад вёскі, на паўн. беразе воз. Чырвонае, ва ўрочышчах Слупка, Казлоўка і Кухта. Было 72 курганы. Даследавалі 17 насыпаў у 1889 В. З. Завітневіч, 5 насыпаў у 1929 А. М. Ляўданскі і С. А. Дубінскі. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў ямах (3 насыпы) і на гарызонце (у некаторых па 2 нябожчыкі) галавой на З у дамавінах.

Знойдзены жал. цвікі, пярсцёнкападобныя скроневыя кольцы, бронзавыя і алавяныя пярсцёнкі, бронзавыя завушніцы, шкляныя, сердалікавыя, зярнёныя металічныя пацеркі, паясныя кольцы, гліняная праслiца, ганчарныя гаршкі.

Датуецца 11 ст.

*Літ.:* 330.

**ДЗЯКО́ЎСКАЯ КУЛЬТУ́РА,** культура фіна-угорскіх плямён, якія ў 7 ст. да н. э.— 5 ст. н. э. жылі ў міжрэччы Волгі і Акі, у Верхнім Падзвінні, на Валдайскім узвышшы. Назву атрымала ад гарадзішча каля в. Дзякава (у межах Масквы). Насельніцтва жыло патрыярхальнымі сем'ямі ў наземных жытлах і паўзямлянках на гарадзішчах і паселішчах. Займалася жывёлагадоўляй, лядным земляробствам, паляваннем і рыбалоўствам, выраблялa жал. і касцяныя прылады працы, бронзавыя ўпрыгожанні. Кераміка слоікападобнай формы з тэкстыльнымі адбіткамі (адсюль іншая назва Дз. к.— тэкстыльнай керамікі культура) і арнаментам на верхняй частцы пасудзін. На тэр. Беларусі найбольш даследаваныя помнікі: За-

горцы, Новы Болецк, Мямлі (Гарадоцкі р-н) і інш.

*Літ.:* 1211.

**ДЗЯМ'ЯНКІ**, група археалагічных помнікаў каля в. Дзям'янкі Добрушскага р-на.

С т а я н к а ранняга этапу *верхнедняпроўскай культуры.* За 800 м на ПдУ ад вёскі, на пясчаным астанцы ў пойме правага берага р. Іпуць, ва ўрочышчы Стрэчава. Памер 200×100 м. Выявіла ў 1977, даследавала ў 1978—80 А. Г. Калечыц, раскапана 184 м². Культурны пласт 0,2 м.

Знойдзена каля 800 крамянёвых вырабаў і 16 фрагментаў ляпнога посуду. Сярод крамянёвых знаходак пераважаюць адшчэпы, прызматычныя, пірамідальныя, шматпляцовачныя нуклеусы, адходы крамянёвай вытворчасці; сярод прылад працы — скрабкі, сякеры, вастрыё, архаічны пласціністы наканечнік стралы і інш. Фрагменты керамікі або неарнаментаваныя, або ўпрыгожаны ямкавымі ўціскannямі і адбіткамі грэбеня. У гліне шматлікія дамешкі раслінных рэштак.

С т а я н к а-2 развітога этапу верхнедняпроўскай культуры і *сярэднедняпроўскай культуры.* За 700 м на ПдУ ад вёскі, на пясчаных узвышшах правага берага р. Іпуць, ва ўрочышчы Асавец. Памер 100×40 м. Выявіла ў 1977, даследавала ў 1978—82 Калечыц. Культурны пласт 0,2 м.

На ўцалелых у перыферыйнай частцы астанцах на пл. 48 м² у раскопе, а таксама на паверхні раздзьмутых пяскоў знойдзена некалькі соцень апрацаваных крамянёў і рэшткі ляпнога посуду. Сярод крамянёвых знаходак адшчэпы, нуклеусы, рэтушоры і інш. адходы вытворчасці, а таксама скрабкі, цёслы, сякеры, разцы, вастрыі, тронкавыя, ромбападобныя, трохвугольныя наканечнікі стрэл і коп'яў, нажы, сярпы, скрэблы, свярдзёлкі. Фрагменты керамікі ўпрыгожаны грабеньчатымі адбіткамі, ямкавымі, лапчастымі ўціскannямі, адбіткамі шнура, лінейнага штампа, ружанцавым арнаментам, ёсць неарнаментаваныя кавалкі посуду. На стаянцы трапляюцца матэрыялы ранняга жал. веку.

Б е с к у р г а н н ы м о г і л ь н і к. За 2 км на У ад вёскі, на невысокай надпоймавай тэрасе воз. Рэчышча ў правабярэжжы р. Іпуць, ва ўрочышчы Беразані (Бярозавая Града, Нізень). Адкрылі і абследавалі ў канцы 19 ст. М. М. Філонаў і Е. Р. Раманаў. У 1962—63 Г. Ф. Салаўёва даследавала 3 пахаванні, якія знаходзіліся пад больш познімі курганамі. Пахавальны абрад — трупаспаленне па-за межамі могільніка, рэшткі крэмацыі змешчаны ў ямку або гліняную пасудзіну (урну).

Знойдзены аплаўленыя бронзавыя злісткі, абломкі крыжападобнай падвескі, рэчы з эмаллю, жал. спражка, трохгранны тронкавы наканечнік стралы, цэлыя і фрагментаваныя ляпныя пасудзіны. Адносіцца да помнікаў тыпу Абідні і Калочына.

Датуецца 3—7 ст. н. э.

К у р г а н н ы м о г і л ь н і к. За 2 км на У ад вёскі, на правым беразе старыцы р. Іпуць. 159 насыпаў выш. 0,5—2 м, дыям. 6—12 м. Адкрылі ў канцы 19 ст. Філонаў і Раманаў. У 1962—63 Салаўёва раскапала 31 насып. Пахавальныя абрады — трупаспаленне па за межамі могільніка, рэшткі крэмацыі змешчаны ў неглыбокую ямку, у урну на гарызонце або ў дамавіну, і трупапалажэнне на гарызонце і ў пахавальных ямах галавой на З і У (мужчынскія пахаванні) і на З (жаночыя). Адзначаны попельна-вугальныя кольцы, праслойкі, сляды драўляных дамавін.

Знойдзены ганчарныя пасудзіны і іх абломкі, рэшткі ляпнога посуду, жал. нажы, серп, цвік, рэшткі шарсцянога галаўнога ўбору, скуранога рэменя, сяміпрамянёвыя і драцяныя скроневыя кольцы, пярсцёнкі, разнастайныя падвескі, лунніцы, бразготкі з бронзы і серабра, сердалікавыя і шкляныя пацеркі, арабскі дырхем — падвеска 911—912 г.

Раннія курганы з трупаспаленнем датуюцца 1-м тысячагоддзем н. э. (6—7 ст.), познія — 9—10 ст. Курганы з трупапалажэннем датуюцца пач. 11 ст. (пахаванні на гарызонце), 12 ст. (пахаванні ў ямах). Этнічная прыналежнасць — *радзімічы.* Курганны могільнік — пакуль адзіны на тэр. радзімічаў некропаль, які існаваў бесперапынна на працягу некалькіх соцень гадоў (7—12 ст.).

С е л і ш ч а. За 700 м на ПдУ ад вёскі, на краі астанца першай надпоймавай тэрасы правага берага р. Іпуць, ва ўрочышчы Асавец. Абследавалі ў 1970-я г. Калечыц, у 1978 А. І. Драбушэўскі, А. А. Макушнікаў, у 1982 У. А. Літвінаў, Макушнікаў. Культурны пласт 0,2—0,3 м выяўлены на пл. 1,12 га, моцна разбураны раздуваммі.

Прасочаны рэшткі развеяных ветрам 4—5 пабудоў: скопішчы згарэлага дрэва, глінянай абмазкі або пячыны, абпаленых камянёў, керамікі. Знойдзены ганчарны посуд, бронзавы пярсцёнак, жал. авальная крэсіва, нажы, рыбалоўны кручок, кольца, спражка, цвік, глінянае і каменнае грузілы, фрагмент туфавых жорнаў, абломак шклянога бранзалета.

Датуецца 12—15 ст.

За 200 м на Пд ад вёскі, на правым беразе Іпуці ва ўрочышчы Барок, а таксама на шматлікіх пясчаных астанцах, у пойме левага берага р. Іпуць ва ўрочышчах Тарасавы Грывы, Свідні, Часнакова Балота, Стайкі, Асінавая Грыва, Серабранка, Сямёнава Грыва, Тамашова Грыва, Бушава, Падкляпка ў 1970-я г. Калечыц знайшла 11 стаянак каменнага і бронзавага вякоў.

*Літ.:* 479, 733, 981, 1063, 1119.

*А. Г. Калечыц, А. А. Макушнікаў, Г. Ф. Салаўёва.*

**ДЗЯНІСЕНКІ**, курганны могільнік крывічоў каля в. Дзянісенкі Верхнядзвінскага р-на. За 500 м на ПдУ ад вёскі, на беразе воз. Лісна. Складаецца з 2 частак: у паўднёвай 29 курганоў, у паўночнай 13. Курганы круглыя выш. 0,4—1 м, дыям. 5—12. У 1974 З. М. Сяргеева даследавала 9 насыпаў. Ва ўсіх даследаваных курганах зафіксавана перадмацерыковая попельная праслойка. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на мацерыку (у 4 курганах) і ў падкурганных ямах (у 5).

У ліку знаходак жал. ўтулкавы наканечнік кап'я з пяром рамбічнага сячэння і 3 нажы, падковападобная фібула са спіральнымі канцамі, галаўны вянок са спіралей і пласцін, бронзавыя крыжападобныя падвескі, паясныя кольцы, лірападобная спражка, пярсцёнкі з бронзавага дроту, шкляныя пацеркі. Посуд ляпны і кругавы. Ляпныя пасудзіны (2) выцягнутыя, у адной венчык прамы, у другой злёгку адагнуты, адзін гаршчок арнаментаваны уздоўж шыйкі. Ганчарная пасудзіна прысадзістая, тулава з круглаватымі бакамі, венчык рэзка адагнуты вонкі. У курганах з трупапалажэннем на мацерыку выяўлены знаходкі 10—11 ст., у курганах з трупапалажэннем у падкурганных ямах — 11—12 ст.

*Літ.:* 1083а. *Л. У. Дучыц.*

**ДЗЯНІСКАВІЧЫ**, курганны могільнік *радзімічаў* 11 ст. каля в. Дзяніскавічы Жлобінскага р-на. За 300 м на ПнЗ ад вёскі. Захаваўся 31 курган выш. да 2 м, дыям. 10—12 м. Вядомы з 1873, ў 1975 У. У. Багамольнікаў раскапаў 4 насыпы. Пахавальны абрад — трупапалажэнне.

У 1 кургане знойдзены рэшткі касцей чалавека, фрагменты керамікі, крыжык, 2 ганчарныя гаршкі, пацеркі, лунніцы, у 2 курганах пахаваны жанчыны галавой на З, знойдзены пазалочаныя шкляныя бочачкападобныя пацеркі, дробны бісер, металічныя прызматычныя пацеркі, біэліпсоідная падвеска. У мужчынскім пахаванні галавой на У рэчаў не выяўлена. Наяўнасць у 3 насыпах дадатковых пахаванняў часоў позняга феадалізму сведчыць аб паўторным выкарыстанні могільніка.

*Літ.:* 146, 1046. *У. У. Багамольнікаў.*

**ДЗЯРЖАЎНЫ АРХЕАЛАГІЧНЫ МУЗЕЙ** у В а р ш а в е (Państwowe muzeum Archeologiczne). Утвораны на аснове збору старажытнасцей польскага археолага Э. Маеўскага. з 1928 Цэнтр. дзярж. музей перадгісторыі, пазней Дз. а. м. Мае больш за 6 тыс. археал. прадметаў (1991). у т. л. калекцыі з Брэсцкай, Віцебскай, Гродзенскай, Магілёўскай. Мінскай (розных эпох) і Гомельскай (эпохі ранняга феадалізму) абласцей. Сярод экспанатаў бівень мамаnта, каменныя сякеры, крамянёвыя прылады працы, нуклеусы, загатоўкі, ляпная кераміка жал. і бронзавага вякоў, бронзавыя фібулы розных тыпаў 3—4 ст., шкляныя пацеркі. бронзавыя скроневыя кольцы паморскай культуры, ганчарны гаршчок з кляймом 11 ст., бронзавыя бранзалеты, пярсцёнкі, бразготкі, шкляныя пацеркі; археал. карта ваколіц Начы (Ляхавіцкі р-н), складзеная В. А. Шукевічам, на якой нанесены 72 стаянкі каменнага веку. З музей-

най калекцыі Тышкевічаў экспануюцца рэчы з раскопак курганоў у Барысаўскім і Мінскім пав.: сярпы, наканечнікі коп'яў, нажы, крэсівы, падкowападобныя фібулы, шыйныя грыўні, падвескі, упрыгожанні з бронзавых спіралек і шкляных пацерак, лунніцы, бранзалетападобныя крывіцкія скроневыя кольцы, вітыя з дроту бранзалеты з завязанымі канцамі, ганчарныя гаршкі з лінейным і хвалістым арнаментам і інш.

*Літ.:* 897, 1441, 1442. *Г. В. Штыхаў.*

**ДЗЯРЖА́ЎНЫ МАСТА́ЦКІ МУЗЕ́Й БЕЛАРУ́СІ,** рэспубліканскі музей выяўленчага мастацтва. Засн. ў 1939 (да 1957 Дзярж. карцінная галерэя). У Айчынную вайну музей разрабаваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Адноўлены ў 1945 у выніку стварэння новых фондаў. Мае унікальную калекцыю археал. помнікаў 12—18 ст., якая складаецца з мастацкіх каштоўнасцей, перададзеных з Ін-та гісторыі АН БССР, Ін-та археалогіі АН СССР (Ленінградскае аддзяленне), Эрмітажа, аб'яднання «Белрэстаўрацыя», а таксама набытых у прыватных асоб.

Экспануюцца знаходкі 12—13 ст. з раскопак Э. М. Загарульскага і В. Р. Тарасенкі ў Мінску: накладка калчана з геам. арнаментам, колты, стрэмя, шпора, двухбаковы грэбень з выявай дракона, каменныя абразкі: двухбаковы «Маці Боская. Пётр» і «Мікола і Стэфан» (у першым адчуваецца візантыйскі ўплыў, у другім — раманскі). Г. В. Штыхавым у музей перададзены абразок 12—13 ст. «Казьма. Даміан», знойдзены каля в. *Гарадзішча* Мінскага р-на. З раскопак *Ваўкавыскага гарадзішча* «Шведская Гара» экспануюцца шахматныя пешка «Барабаншчык» і тура «Насада», плітка з выявай барса, касцяная створка трыпціха з выявамі святых (Візантыя), дэталь аздаблення складнога крэсла (Паўд. Германія). Прадстаўлены матэрыялы 12—16 ст. з Навагрудка: паліхромная кафля мясц. вытворчасці, фрагмент накрыўкі ў выглядзе сабачкі з белага і чорнага шкла (Візантыя) і інш. У музеі вял. калекцыя бел. кафлі 16—18 ст., якая значна папоўнілася ў 1980-я г., дзякуючы фінансаванню музеям археал. раскопак у яго філіялах — *Гальшанскім кляштары францысканцаў* і ў *Мірскім замку.* Знаходкі 16—18 ст. дазваляюць прасачыць станаўленне рэнесансу і барока ў мастацтве Беларусі.

*Літ.:* 215, 215а, 354. *Н. Ф. Высоцкая.*

**ДЗЯРЖА́ЎНЫ МУЗЕ́Й БЕЛАРУ́СКАЙ ССР,** назва *Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі* ў 1957—91.

**ДЗЯРЖЫ́НСК** (да 1932 К о й д а н а в а), горад, цэнтр раёна, на р. Няцеча. За 38 км на ПдЗ ад Мінска, на чыг. лініі Мінск — Баранавічы (ст. Койданава), на аўтадарозе Мінск — Баранавічы.

Гарадзішча стараж. Дз. размешчана на паўд. ускраіне горада, ва ўрочышчы Крутагор'е. Мясц. назвы Гаштольдава гара, Кальвіншчына, Акопішча. Пляцоўка гарадзішча авальная, памеры 82×62 м, валы не захаваліся. Моцна пашкоджана ў 1979. Даследавалі ў 1886—87 У. З. Завітневіч, у 1928 А. М. Ляўданскі, у 1963 Э. М. Загарульскі (упершыню на Беларусі быў выкарыстаны метад электравышуку), у 1976, 1979, 1983 Ю. А. Заяц. Культурны пласт 1,5—2 м, мае 3 гарызонты: у ніжнім (0,1—0,2 м) знойдзены гліняныя праслiцы, ляпны посуд *штрыхаванай керамікі культуры* ранняга жал. веку, у сярэднім (0,3—0,4 м) — шыферныя праслiцы і ганчарная кераміка перыяду Кіеўскай Русі, у верхнім — вырабы з жалеза, бронзы, кафля, цэгла-пальчатка, чарапіца 14—17 ст. Выяўлены рэшткі падмуркаў каменнай пабудовы, ве-




Да арт. **Дзяржаўны мастацкі музей Беларусі.** Шахматныя фігуры — пешка «Барабаншчык» і тура «Насада» 12 ст. з Ваўкавыска.

рагодна, кальвінскага збору 2-й пал. 16 ст. У 1613 на месцы гэтых муроў быў узведзены большы па памерах кальвінскі збор.

У пісьмовых крыніцах упамінаецца з 12 ст. як Крутагор'е ў складзе Менскага ўдзельнага княства. Паводле звестак П. М. Шпілеўскага, у старой койданаўскай праваслаўнай царкве, якая згарэла ў 1850, «быў абраз з надпісам «Крутагор'е, 1146»». Шпілеўскі лічыў, што да 2-й пал. 12 ст. яшчэ не існавала назвы Койданава. У хроніках і летапісах 16—17 ст. занатавана, што ў 13 ст. пад Крутагор'ем адбылася бітва ці то паміж войскамі навагрудскага кн. Скірмунта і татарскага военачальніка Койдана (альбо Балаклая), ці то паміж войскамі апошняга і кн. ВКЛ Міндоўга. У гэтай бітве нібыта загінуў хан Койдан. Татары пахавалі яго і пасяляліся ў мястэчку. Паводле падання, пасля гэтага Крутагор'е назвалі Койданавам. Некаторыя даследчыкі (М. І. Ермаловіч і інш.) лічаць, што такой бітвы не было. У 1445 Казімір IV Ягелончык перадаў мястэчка, якое было ўдзелам яго бацькі Ягайлы, стрыечнаму брату Міхаілу Жыгімонтавічу. У 1483 Койданава перададзена ва ўладанне кн. В. М. Вярэйскага (Удалога), праўнука маскоўскага кн. Дзмітрыя Данскога. З 1501 ва ўладанні жонкі Вярэйскага Марыі, з 1522 — яго дачкі Соф'і, якая была замужам за Альбрэхтам Гаштольдам. Гэтай парой у дакументах Койданава часам называлі Гаштольдавам. Увосень 1502 і вясной 1503 горад моцна пацярпеў ад набегаў крымскіх (акерманскіх) татараў. На карце ВКЛ канца 15 — пач. 16 ст., складзенай М. К. Любаўскім, Койданава пазначана сярод прыватнаўласніцкіх паселішчаў, якія характарызуюцца як «важнейшыя княжацкія і панскія двары пры месцах і сёлах». Пасля смерці А. Гаштольда ў 1539 Койданава перайшло ва ўладанне вял. кн. Жыгімонта І Старога і стала цэнтрам староства. З 1550 уладальнікам Койданава стаў Мікалай Радзівіл Руды. Ён перайменаваў Койданаўскае староства ў графства, якое ў 1566 увайшло ў склад Менскага ваяводства. З 2-й пал. 16 ст. адзін з гандл. цэнтраў на Беларусі. Паводле інвентара маёнтка Койданава 1588, у мястэчку 120 «дымоў», ратуша, замак, кальвінскі збор (пабудаваны каля 1564), касцёл (пабудаваны ў 1439), рынак, 6 стаўкоў для развядзення рыбы, 2 карчмы (мядовая і гарэлачная); штогод праводзіліся 4 кірмашы: на Грамніцы (люты), у Юр'еў дзень (23 красавіка), на Тройцу (май), на Пакровы (1 кастрычніка). У Койданаве было 6 вуліц: Віленская, Менская, Слуцкая, Станькаўская, Рубяжэвіцкая, Плябанская. Захаваліся інвентары Койданава 1620, 1644, 1647, 1668, 1669, 1670, 1678, 1679, 1682, 1696, 1777, 1796, 1837. У 2-й пал. 16 ст. Койданава — адзін з найбуйнейшых на Беларусі цэнтраў кальвінізму. У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 спалена рус. войскамі (1655). Вядома, што ў 16—1-й пал. 17 ст. ў мястэчку былі развіты рамёствы: апрацоўка металаў, мінеральнай сыравіны, дрэва, скур, футра, вытворчасць воўны, адзення, ткацтва, ружэйны і рамізны промыслы — усяго 24 віды заняткаў. У сувязі з тым, што ў інвентарах 1588 і 1776 упамінаюцца ратуша, войт, ленвойт і інш., можна меркаваць, што мястэчка мела магдэбургскае права. Койданава мела свой герб (выява галінак дуба і алівы). У 1793 пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай Койданава ўвайшло ў склад Расійскай імперыі, стала цэнтрам воласці Мінскага пав.

*Літ.:* 187, 188, 331, 1329.

*А. І. Валахановіч.*



Да арт. **Дзяржаўны мастацкі музей Беларусі.** Грэбень з выявай дракона 13 ст. з Мінска.



Фрагмент рамачнай паліванай кафлі з гербам П. Сапегі. 2-я чвэрць 17 ст. **Дзятлава.**



Фрагмент курыльнай люлькі 17 ст. з **Дзятлава.**

**ДЗЯРЖЫНСКІ ГІСТО́РЫКА-КРАЯЗНА́ЎЧЫ МУЗЕ́Й.** Засн. ў 1985 на базе гіст. музея СШ № 3 г. Дзяржынска, адкрыты ў 1987. Мае 1021 археал. экспанат (1991): прылады працы, гліняны посуд каменнага, бронзавага і жал. вякоў, кераміка 12—14 ст., упрыгожанні з гарадзішча *Старая Рудзіца*, прылады працы і палявання з паселішчаў *Каменка, Навасады*, койданаўскага гарадзішча, шкляныя рознакаляровыя пацеркі з могільніка *Грычына*. Нумізматычная калекцыя прадстаўлена манетамі сярэдневяковай Еўропы, Рэчы Паспалітай (г. Быдгашч), Кракаўскага манетнага двара, папяровымі і металічнымі грошамі Расіі. Дэманструецца карта археал. помнікаў раёна. *І. І. Лысак.*

**ДЗЯСНІ́НСКАЯ КУЛЬТУ́РА,** археал. культура неалітычных плямён, якія ў 2-й пал. 4-га — 3-м тысячагоддзі да н. э. жылі ў басейне Дзясны і на У Пасожжа. Асн. заняткамі насельніцтва былі паляванне, рыбалоўства, збіральніцтва; ёсць падставы меркаваць, што на апошнім этапе развіцця культуры пачалася вытворчая гаспадарка (прымітыўныя жывёлагадоўля і земляробства). Паселішчы пл. 300—600 м² размяшчаліся на прыбярэжных тэрасах, узгорках, якія ўдаваліся ў даліны рэк. Насельніцтва жыло ў наземных або злёгку заглыбленых ў зямлю жытлах прамавугольнай або авальнай формы пл. 10—20 м², што размяшчаліся па адной лініі за 5—10 м адно ад аднаго. Агнішчы адкрытага тыпу былі ў цэнтры жытлаў у заглыбленнях падлогі. Побач з жытламі знаходзіліся гасп. ямы і рабочыя месцы майстроў па вырабу посуду і прылад працы. Плямёны Дз. к. выраблялі крамянёвыя грубаапрацаваныя сякеры, скрэблы, бакавыя і клінападобныя разцы, канцавыя скрабкі, вастрыі і інш., грубы гліняны вастрадонны посуд, аздоблены круглымі, авальнымі і ромбападобнымі ямкамі, з іх дапамогай скампанаваны паясы, рамбічныя і шахматныя кампазіцыі, якія маглі спалучацца з радкамі грабеньчатых адбіткаў. На познім этапе Дз. к. арнаментацыя ўскладнілася, паявіліся адбіткі перавітай шнуром палачкі (т. зв. лапчасты арнамент), наколы пад вуглом, што з'явілася вынікам уздзеяння суседніх плямён днепра-данецкай культуры і *верхнедняпроўскай культуры*. Моцнае падабенства мясц. мезалітычнага і неалітычнага комплексаў сведчаць пра іх генетычнае адзінства. Дз. к. вылучыў В. П. Левянок.

*Літ.*: 666, 822, 847. *А. Г. Калечыц.*

**ДЗЯ́ТЛАВА,** горад, цэнтр Дзятлаўскага р-на, на р. Дзятлаўка. За 165 км на ПдУ ад Гродна.

У інвентарах 16 ст. ў Дз. упамінаюцца 2 цэнтры: Рынак (цяпер пл. 17 Верасня) і Замак (месца дакладна не вызначана). У 1990 П. А. Русаў заклаў шурфы на тэр. б. Рынка і мяркуемай тэр. Замка (зах. ўскраіна горада, на левым беразе Дзятлаўкі, у некалькіх метрах ад цаглянага палаца 18 ст.). Культурны пласт палаца да 2 м. Выяўлены рэшткі пабудовы. Захаваўся цагляны падмурак з таўшчынёй сцен 1,4 м. У развале пабудовы знойдзены рэчы 16—17 ст.: фрагменты керамічнага посуду зах.-еўрап. вытворчасці з вершаваным надпісам гатычным шрыфтам, кафляў (па іх вызначана прыналежнасць пабудовы Паўлу Сапегу, які, верагодна, узвёў яе ў 2-й чвэрці 17 ст.), кветачніца з чырвонай гліны з 2 дэкаратыўнымі ручкамі ў выглядзе кольцаў, шкляныя днішчы бутляў з клеймамі лацінскімі літарамі на знешнім баку, шмат сярэбраных шпілек, соліды польскай і літ. чаканкі сярэдзіны 17 ст. На тэр. б. Рынка культурны пласт да 0,8 м, парушаны забудовамі 18—20 ст. Знойдзена кухонная кераміка 16—17 ст.





Да арт. **Дзяржаўны мастацкі музей Беларусі.** Абраз Мікола і Стафан 13 ст. Мінск. Касцяное наверша 12—13 ст. Ваўкавыск.

У пісьмовых крыніцах Дз. ўпершыню ўпамінаецца ў 1498 у дароўным акце вял. кн. Аляксандра, калі «двор Здетела» быў падараваны гетману літоўскаму кн. Канстанціну Іванавічу Астрожскаму з правам заснаваць мястэчка. У 1514 Дз. упраўляў староста, або «старац» Дзяніс, чалавек пані Якубавай. У 1-й чвэрці 17 ст. Дз. перайшло да Сапегаў, у 1655 — да кн. Палубінскіх. У 1686 кн. Канстанцін Палубінскі аддаў мястэчка Марыі Палубінскай. Пасля яе замужжа з вял. падканцлерам ВКЛ Дамінікам Радзівілам Дз. стала ўладаннем Радзівілаў. З 1795 у складзе Расійскай імперыі, мястэчка Слонімскага пав.

*Літ.*: 13. *П. А. Русаў.*

**ДНЕ́ПРА-БУ́ГСКІ ВО́ДНЫ ГАНДЛЁВЫ ШЛЯХ,** водны шлях, па якім у 9—13 ст. ажыццяўляліся гандл. і культ. сувязі стараж.-рус. зямель з Польшчай і Зах. Еўропай. У пісьмовых крыніцах не ўпамінаецца, аднак пра яго існаванне сведчаць шматлікія прывазныя рэчы, выяўленыя ў

час раскопак стараж. гарадоў, а таксама грашовыя скарбы. Працягласць шляху ад Кіева да зах. межаў Русі складала каля 700 км. З Дняпра ён ішоў па Прыпяці і яе прытоку Піне, потым па сушы да р. Валока (левы прыток Мухаўца) і адтуль праз Мухавец да Зах. Буга. Выкарыстоўваліся і 2 інш. варыянты шляху: з Прыпяці да вярхоўяў Ясельды, далей поцягам у р. Нараў (правы прыток Зах. Буга); з вярхоўя Прыпяці поцягам каля 10 км да Зах. Буга. Час навігацыі прыпадаў на красавік — лістапад. Зімой гандаль ажыццяўляўся па сухапутнай дарозе Кіеў — Перамышль. У 10 ст. па гэтым шляху ў Мазовію, Велікапольшчу і інш. рэгіёны Зах. Еўропы паступаюць арабскія дырхемы. З сярэдзіны 11 ст. двухбаковы абмен таварамі становіцца больш інтэнсіўны. З Зах. Еўропы на Русь вывозяцца зах.-еўрап. дынарыі, каляровыя металы, бурштын, прадметы раскошы, з Русі ў Польшчу і далей — футра, мёд, шкляныя бранзалеты, пацеркі і інш. Апошнім мытным пунктам на шляху быў пагранічны г. Драгічын Надбужскі, дзе знойдзена шмат рус. таварных пломбаў. У 9—10 ст. прыпяцкі адрэзак шляху кантраляваўся дрыгавічамі, а ў Пабужжы — валынянамі і мазаўшанамі (акрамя вярхоўяў Нарава і Ясельды, дзе пераважалі ятвягі). У 2-й пал. 10 ст. большая частка Прыпяцкага Палесся, а ў сярэдзіне 11 ст. ўсе землі, па якіх пралягаў шлях, трапілі пад уплыў кіеўскіх князёў. З 2-й пал. 12 ст. гарады Бярэсце і Драгічын Надбужскі (зах. адрэзак шляху) увайшлі ў склад Уладзіміра-Валынскага княства.

*Літ.*: 878. *А. В. Іоў.*

**ДНЕ́ПРА-ДАНЕ́ЦКАЯ КУЛЬТУ́РА,** грабеньчата-накольчатай керамікі культура, археал. культура плямён эпохі неаліту (5—3-е тысячагоддзі да н. э.), якія жылі ва Усх. Палессі і на паўн.-ўсх. Украіне. На З яе арэал абмежаваны рэкамі Случ і Гарынь, на У — нізоўямі Сажа і Дзясны, на Пд — дняпроўскім Надпарожжам і Данцом. Вядома каля 250 помнікаў, з іх палавіна на тэр. паўд.-ўсх. Беларусі. Больш за 20 могільнікаў выяўлена толькі на тэр. Украіны, дзе культура прайшла 3 этапы развіцця і знікла ў сярэдзіне 3-га тысячагоддзя да н. э. У паўн. частцы свайго арэала (на Беларусі) праіснавала яшчэ 500 гадоў. Усх.-палескі варыянт яе на апошнім, 4-м этапе развіцця выяўляе найб. багацце керамічных форм і арнаментацыі. Насельніцтва належала да позніх краманьёнцаў, паўн. еўрапеоідаў. Займалася паляваннем, рыбалоўствам, пазней — земляробствам і жывёлагадоўляй. Жытлы невялікія наземныя або крыху паглыбленыя ў зямлю, авальныя ці прамавугольныя, унутры часам з абкладзеным камянямі агнішчам, з лёгкім дахам. Сярэднія памеры жытлаў 2,5×3 м, пл. 6—10 м². Пахавальны абрад — трупапалажэнне на спіне ў яме, касцякі пасыпаны вохрай. Пахавальны інвентар бедны.








Посуд **днепра-данецкай культуры:** А — 1—3,5 (струмель-гасцяцінскі тып), 6 — з паселішчаў-3, 4, 5 Юравічы Калінкавіцкага р-на, 4 — з паселішча Лучыжавічы Мазырскага р-на; Б — 1—5 — з паселішчаў-3, 4 Юравічы; В — 1 — з паселішча Гнездзенка Хойніцкага р-на, 2—5 — з паселішчаў-4, 5 Юравічы. Рэканструкцыя.

Асн. форма керамікі — прысадзісты шыракагорлы і вастрадонны гаршчок з прамым венчыкам, вертыкальнымі сценкамі, якія плаўна пераходзяць у высокую канічную донную частку. У месцы пераходу (найбольшага пашырэння) пазней рабіўся круты перагіб, а донца часам было плоскім або шышкападобным. Край крыху адагнуты вонкі і падкрэслены радам круглых глыбокіх наколаў, пад краем было патаўшчэнне — каўнерык. Посуд вырабляўся стужкавым спосабам з глінянага цеста, у якое дабаўлялі раслінны дамешак, пазней пясок. Дыям. гарлавіны 35—40 см, таўшч. сценак 1—1,2 см. Паверхня звонку добра загладжвалася, унутры захоўваліся грабеньчатыя расчосы. Посуд слаба абпальваўся на вогнішчы. На 3-м і 4-м этапах ён складаўся з 5—6 тыпаў гаршкоў, сярод якіх сустракаюцца кубкі невял. памеру. Рэканструявана каля 30 сістэм арнаментацыі посуду, у т. л. трохпаясныя (верх, сярэдзіна, донца), суцэльна гарызантальныя (папярочныя стужкі), спалучэнне ў сістэ-



Фрагменты гаршкоў **днепра-данецкай культуры** з паселішчаў-3, 4 Юравічы Калінкавіцкага р-на.

ме гарызантальных паясоў з нахіленымі і вертыкальнымі стужкамі, занальныя (з трохвугольнымі, прамавугольнымі і рамбічнымі зонамі), кратападобныя або ў выглядзе нахіленай сеткі. Знойдзена пасудзіна з выявамі мужчыны і качкі. Арнамент выконваўся дробназубчастым штампам (20—25 %), наколамі збоку (25—30 %), насечкамі, лапчастымі ямкамі (канцом вастрыя, на якое намотваўся шнурок). На 4-м этапе з'явіліся прамавугольныя і грубыя шнуравыя адбіткі, аблямоўка зон інш. элементамі, спалучэнне розных матываў і адбіткаў. У афармленні посуду прасочваюцца вытокі сучаснай бел. нар. геаметрычнай арнаментацыі. Крамянёвы інвентар разнастайны: пласціністыя і трохвугольныя наканечнікі стрэл, нізкія трапецыі (устаўкі для рэжучых прылад), вузкія і шырокія нажы, кароткія сегментападобныя сярпы, круглаватыя і канцавыя пераважна плоскія скрабкі, розныя праколкі, вастры, свёрлы, трапецападобныя сякеркі, вуглавыя разцы. Д.-д. к. характэрна наяўнасць мікралітаў і прылад плоскай апрацоўкі. Сярод касцяных вырабаў цёслы, праколкі, падвескі з зубоў, пласціны для ўпрыгожання вопраткі.

Першыя помнікі Д.-д. к. выявілі ў 1927—33 А. В. Дабравольскі і М. Я. Рудзінскі, культуру вылучылі В. М. Даніленка ў 1956 і Д. Я. Цялегін у 1957; у паўд.-ўсх. Беларусі яе вывучаў У. Ф. Ісаенка (1960—80). На Беларусі даследаваны помнікі: *Слабодка* (Тур'я) і *Юравічы* Калінкавіцкага, Юркавічы Любанскага р-наў, Пхоў (у межах г. Мазыр), групы помнікаў каля вёсак Ломыш і *Краснаселле* Хойніцкага, Лучыжавічы Мазырскага, Знаменка (б. Сляпцы) Жыткавіцкага р-наў і інш.

*Літ.:* 295, 460, 1170. *У. Ф. Ісаенка.*

**ДНЕ́ПРА-ДЗВІ́НСКАЯ КУЛЬТУ́РА**, археал. культура ўсх.-балцкіх плямёнаў, якія ў 8 ст. да н. э.—4—5 ст. н. э. жылі ў Верхнім Падняпроўі, Сярэднім Падзвінні і ў вярхоўях р. Вялікая. У межах Беларусі ўключала ў сябе тэр. амаль усёй Віцебскай і паўн. частку Магілёўскай абласцей. Асн. тыпам пасяліішчаў былі ўмацаваныя пасёлкі-гарадзішчы, якія размяшчаліся на ледавіковых астанцах-узгорках (узгоркавыя) і на мысах надпоймавай тэрасы (мысавыя). На тэр. Беларусі вядома каля 200 гарадзішчаў. Іх форма (авальная, круглая, трохвугольная, прамавугольная) залежала ад канфігурацыі ўчастка і характару абарончых збудаванняў. Плошча пляцовак, дзе размяшчаліся жылыя і гасп. пабудовы, складала ад 500 да 2500 м². Асн. жылымі пабудовамі былі наземныя збудаванні слупавой канструкцыі, якія размяшчаліся пераважна па краі пляцоўкі. У залежнасці ад асаблівасцей і змен, што назіраліся ў характары гарадзішчаў, матэрыяльнай культуры і сац.-эканам. жыцці насельніцтва, час існавання Д.-дз. к. на тэр. Беларусі падзяляецца на 3 храналагічныя перыяды. У ранні перыяд (8—5 ст. да н. э.) насельніцтва будавала гарадзішчы на ўзвышаных месцах каля вады на тэр. з узгоркава-азёрным ландшафтам, іх пляцоўкі не ўмацоўваліся, падсыпаліся толькі краі і рабіліся драўляныя агароджы.

Сярод знаходак пераважаюць вырабы з каменю і косці (каменныя клінападобныя і свідраваныя сякеры, зерняцёркі, таўкачы, тачыльныя брускі і інш.), касцяныя і рагавыя прылады палявання, дэталі адзення і ўпрыгожанні, нешматлікія бронзавыя ўпрыгожанні. Кераміка — гладкасценны посуд у асноўным слоікападобных форм з грубай шышкаватай паверхняй, арнаментаваны скразнымі адтулінамі, і слабапрафіляваны з ямкавымі ўціскannямі ў верхняй частцы.



Прылады працы, упрыгожанні і кераміка **днепра-дзвінскай культуры**.

У гліне пасудзін вял. дамешкі жарствы. У гаспадарцы пераважалі жывёлагадоўля, паляванне і рыбалоўства. У сярэдні перыяд (4—1 ст. да н. э.) павялічваюцца памеры гарадзішчаў, ускладняюцца абарончыя збудаванні. Па краі пляцовак насыпаліся земляныя валы, узмоцненыя равамі. Падоўжныя наземныя жытлы слупавой канструкцыі, падзеленыя на асобныя памяшканні з каменнымі агнішчамі ўсярэдзіне, размяшчаліся па перыметры пляцовак.

Побач з каменнымі і касцянымі прыладамі працы распаўсюджваюцца жал. вырабы. Па-ранейшаму выраблялся ляпны гладкасценны слоікападобны слабапрафіляваны посуд з арнаментам пераважна ў выглядзе груп пракрэсленых косых ліній, ямкавых уціскаў і інш.

Асн. заняткам насельніцтва стала жывёлагадоўля, развіваліся разнастайныя рамёствы. Позні перыяд (1—4—5 ст. н. э.) характарызуецца складанай і дасканалай сістэмай кальцавых валоў з драўлянымі сценамі і равоў вакол схілаў ніжэй пляцоўкі гарадзішчаў у 2, 3 і больш ліній. Плошча пляцовак павялічылася ад 2000 да 7000 м², яны ператварыліся ў пасёлкі-крэпасці. Жытлы на познім этапе — невял. наземныя чатырохвугольныя пабудовы слупавой канструкцыі з каменнымі агнішчамі ўсярэдзіне.

Усюды пашырыліся жал. прылады працы і зброя, сярод іх сярпы з шырокім лязом і выгнутай спінкай, нажы для жніва, нажы прамыя і з гарбатай спінкай, шылы, іголкі, наканечнікі коп'яў і стрэл, шпількі, бранзалеты (гладкія, вітыя, з насечкамі), брытвы і інш. У кераміцы сярод слабапрафіляваных гаршкоў паявіліся падоўжаныя венчыкі, паверхня посуду шурпатая ад значных дамешкаў буйнога пяску ў гліне, афарбоўка керамікі ад светла-чырванаватага да жаўтаватага адценняў. Трапляюцца гліняныя прасліцы і грузікі дзякава тыпу.

Вядучымі галінамі гаспадаркі сталі ляднае земляробства і жывёлагадоўля, а таксама разнастайныя рамёствы і заняткі, звязаныя з апрацоўкай каменю, косці, жалеза і бронзы, з вырабам рэчаў з гліны, прадзеннем, ткацтвам, пляценнем.

Д.-дз. к. Беларускага Падзвіння адрозніваецца ад аднакультурнай вобласці Верхняга Падняпроўя (тэр. Смаленшчыны) шэрагам адметных рыс: пераважна слоікападобных форм посуду і арнаментаваных гаршкоў; працяглае выкарыстанне вырабаў з косці і каменю; наяўнасць вял. колькасці прадметаў, звязаных з балцкім уплывам (касцяныя шпількі, жал. сякеры, сярпы, бранзалеты, шпількі, фібулы і інш.), а таксама спецыфічных вырабаў, характэрных толькі для тэр. паўн. Беларусі (сярпы з прамавугольнай спінкай, шпількі з вял. галоўкай, некаторыя ўпрыгожанні з косці і інш.). Асаблівасць звязана і са значнай роляй жывёлагадоўлі ў гаспадарцы насельніцтва Д.-дз. к., са спецыфічнымі рысамі ўзвядзення жылля (слупавая тэхніка будаўніцтва, канструкцыя агнішчаў), з адсутнасцю знешняга ўплыву з боку паўд. культур, таму Д.-дз. к. праіснавала на тэр. Пн Беларусі як заходнядзвінскі яе варыянт у адносна чыстым выглядзе да 5 ст. н. э.

Паходжанне Д.-дз. к. звязана з асаблівасцямі развіцця карэннага насельніцтва басейна Зах. Дзвіны ў бронзавым веку. Старажытнасці Д.-дз. к. на тэр. Беларусі вывучалі А. М. Ляўданскі, С. А. Дубінскі, А. Дз. Каваленя, Л. В. Аляксееў, К. П. Шут, В. І. Шадыра і інш. У навук. зварот паняцце Д.-дз. к. як адзінага этнакультурнага масіву ўвёў А. Р. Мітрафанаў.

*Літ.:* 847, 1313, 1368. *В. І. Шадыра.*

**ДНЕ́ПРА-ДЗЯСНІ́НСКАЯ КУЛЬТУ́РА**, гл. *Сожская культура.*

**ДНЯПРО́ЎКА**, гарадзішча днепрадзвінскай і банцараўскай культур і раннефеад. часу каля в. Дняпроўка Дубровенскага р-на. За 1 км на

З ад вёскі, на мысе высокага левага берага Дняпра, ва ўрочышчы Германы. Пляцоўка 16×30 м абмежавана з 2 бакоў ярам, з боку поля ўмацавана 2 валамі (выш. ўнутранага 4,5 м, вонкавага 3 м). Вядома з 1873. Абследавалі ў 1928 С. А. Дубінскі, у 1972 У. Ф. Ісаенка. Культурны пласт больш за 1 м. У паўд. частцы гарадзішча на глыб. 0,6 м выяўлены мур і рэшткі драўляных насцілаў, абломкі гліняных пасудзін.

*Літ.:* 329, 1046. *У. Ф. Ісаенка.*

Выявілі і даследавалі ў 1910 Філонаў і Раманаў, абследавала ў 1976 Ляўко. Раскапана 5 насыпаў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне. Знойдзены 5 плоскіх і трохгранных пярсцёнкаў, 2 кольцы і адна пазалочаная пацерка. Датуецца 10—12 ст.

*Літ.:* 981,1115. *В. М. Ляўко.*

**ДО́БРЫ БОР,** стаянка ***нёманскай культуры*** каля в. Добры Бор Баранавіцкага р-на. Размешчана за 2,5 км на ПдУ ад вёскі, на дзюне «Гарадок», што знаходзіцца на шырокім, цяпер асушаным правабярэжным поплаве р. Шчара. Пл. 5500 м². Выявіў у 1951 А. Р. Мітрафанаў, 3-га тысячагоддзя да н. э. Стаянкі неаліту і бронзавага веку выяўлены на дзюнах поплава ўздоўж абодвух берагоў Шчары, на Пд і ПдУ ад в. Добры Бор, на высокім пясчаным участку карэннага берага Шчары; сляды мезалітычнага паселішча — на ўсх. ускраіне вёскі. *М. М. Чарняўскі.*

**ДО́БРЫНСКІ МАНЕ́ТНА-РЭ́ЧАВЫ СКАРБ.** Знойдзены каля в. Добрына Лёзненскага р-на ў 1962. Складаецца з сярэбранай ***грыўні шыйнай*** і ***дырхемаў*** Арабскага Халіфата.

Грыўня (маса 200,80 г) у выглядзе 8-граннага ў сячэнні дроту (дагуж. 68 см), арнаментаванага па 4 верхніх гранях 4-пялёсткавымі разеткамі з рэльефнымі кропкамі ў цэнтры. На абод-


Фрагменты глінянага посуду са стаянкі **Добры Бор**.


Сярэбраны бранзалет 9 ст. з **Добрынскага манетна-рэчавага скарбу.**

**ДО́БРУШСКІЯ КУРГА́ННЫЯ МО́ГІЛЬНІКІ,** археал. помнікі радзімічаў каля г. Добруш.

Могільнік-1. За 3 км на Пн ад горада, на левым беразе р. Іпуць, ва ўрочышчы Баравое Балота, абапал дарогі на в. Плоскае. 39 курганоў дыям. 5,2—13 м, выш. 0,6—1,8 м. Адкрыў у 1910 Е. Р. Раманаў, абследавала ў 1976 В. М. Ляўко; у 1910 М. М. Філонаў раскапаў 6 курганоў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне.

У жаночых пахаваннях знойдзены шыйная грыўня (звітая з 4 драцінак і з шыпамі на канцах), хрусталёвыя пазалочаныя і сердалікавыя пацеркі, бронзавыя пярсцёнкі, кольцы ад завушніц, прасліца з ружовага шыферу. У мужчынскім пахаванні знойдзена свінцовае кольца ад тронак нажа.

Датуецца 10—12 ст.

Могільнік-2. За 1,5 км на Пн ад горада, ва ўрочышчы Ракітня. 14 насыпаў дыям. 8—17 м, выш. 0,6—1,5 м. Каля асновы асобных курганоў захаваліся невял. раўкі. у 1960 г. І. М. Цюрына даследавала 984 м². Культурны пласт 0,5—0,8 м. Выяўлены 12 агнішчаў круглай і авальнай формы, 5 ям, з іх 3 маюць прамавугольную форму, і магчыма, з'яўляліся паўзямлянкамі.

Знойдзена каля 2 тыс. абломкаў ляпнога глінянага посуду і каля 900 крамянёвых прылад працы і нуклеусаў. Сярод прылад працы і зброі трохвугольныя наканечнікі стрэл, масіўныя лістападобныя наканечнікі коп'яў, нажы (з гарбатай спінкай і серпападобныя), разнастайныя скрабкі, разцы, праколкі, цёслы, сякеры. Знойдзены таксама шліфаваныя каменныя сякеры з прасвідраванымі адтулінамі, шліфавальныя пліткі, адбойнікі. Сярод керамікі найбольш абломкаў вастрадонных гаршкоў са шчыльнымі падштрыхаванымі сценкамі, арнаментаванымі наколамі, насечкамі, пракрэсленымі рысамі, адбіткамі штампа, якія адносяцца да позняга неаліту. Да бронзавага веку належаць абломкі пласкадонных гаршкоў з прафіляванымі сценкамі, арнаментаванымі наразнымі рысамі, шнуравымі адбіткамі, наколамі. Асн. колькасць знаходак адносіцца да 2-й пал.

вух канцах дроту кубікападобныя галоўкі з усечанымі верхнімі вугламі, арнаментаванымі востравугольнымі фігурамі і разеткамі (на квадратных гранях) як і на дроце. Грыўня, магчыма, паўн.-зах. паходжання (відавочна, з в-ва Готланд), тыпалагічна блізкая грыўням *Парэцкага манетна-рэчавага скарбу.* Куфічскіх дырхемаў 527, з іх 96 фрагментаваных. Дынастыя Умаядаў (24 экз.): Хішам [724—743] — 14 экз. Ібрахім [744—745] — 3, Мерван II [744—750] — 7; манетныя двары аш-Шаш (1), Васіт (23). Дынастыя Абасідаў (503): ас-Сафах [750—754] — 14, ал-Мансур [754—775] — 99, ал-Махдзі [775—785] — 75, ал-Хадзі [785—786] — 1, ар-Рашыд [786—809] — 188, ал-Амін [809—813] — 19, ал-Мамуні [813—833] — 102, ал-Мутасім [833—842] — 4, ал-Васік [842—847] — 1; манетныя двары Мадынат ас-Салам (235), ар-Рэй (2), ал-Мухамедыя (81), Мадынат Самарканд (27), Самарканд (9), Мадынат Балх (30), ал-Басра (27), ал-Куфа (27), Мадынат Зерэндж (12), Аран (6), Мадынат Аран (5), Мадынат Ісбахан (11), Армінія (5), Мадынат Нісабур (5), Маадэн аш-Шаш (5), нявыяўлены манетны

двор (1). Ухаваны ў 1-й пал. 840-х г. Зберагаецца ў Віцебскім абл. краязнаўчым музеі.

*Літ.:* 1575. *В. Н. Рабцэвіч.*

**ДО́ЛАТА**, прылада працы для ручной апрацоўкі дрэва: выдзёўбвання адтулін, гнёздаў, пазоў і інш. Выкарыстоўвалася таксама пры разьбе па косці і інш. матэрыялах. Рабілі Д. з каменю, косці, рога, металу. На Беларусі найб. ранніяя каменныя Д. знойдзены на палеалітычнай стаянцы Бердыж. Бывалі яны і ў эпоху мезаліту [*Берагавая Слабада, Краснаўка* (паселішча-1), Міхайлаўка і інш.]. У раннім неаліце выкарыстоўваліся таксама касцяныя Д. з адросткаў рога лася (стаянка Камень), але пераважалі каменныя Д. Шырокае распаўсюджанне Д. пачалося ў сярэднім неаліце, калі яны набылі форму старанна апрацаваных прылад працы, прашліфаваных з 2 бакоў. Цалкам шліфаваныя каменныя Д. лінзападобнай формы ці з авальным сячэннем з'явіліся ў познанеалітычны час. Такія Д. знойдзены на Палессі і Пн Беларусі *(Крывіна, Асавец).* У эпоху бронзы, шляхам абмену з плямёнамі, якія жылі на Пд і З ад Беларусі, сюды сталі трапляць Д., выробленыя з бронзы. Аднак аддаленасць Беларусі ад цэнтраў металургіі бронзы была прычынай нязначнага распаўсюджання тут бронзавых вырабаў, у т. л. і Д. Найбольш ранняе жал. Д. знойдзена на гарадзішчы *Мілаград,* на помніках *штрыхаванай керамікі культуры (Лабеншчына)* і *днепра-дзвінскай культуры (Дзявічкі).* Шмат Д. знойдзена пры раскопках гарадоў Кіеўскай Русі: Полацка, Бярэсця (6 экз.), Давыд-Гарадка, Клецка, Мінска (8 экз.), Друцка (3 экз.), Гомеля, Дрысвят, Чачэрска і інш. Усе яны мелі лёзы аднолькавай канструкцыі: на рабочы край жал. 4-кантовага стрыжня наварвалі стальное лязо, заточанае пад вуглом 17—20°. Звычайна Д. былі квадратныя ў сячэнні, памерам 1—1,6 см, даўж. 13,5—28,8 см. Канструкцыйна Д. не змянілася да нашых дзён. *М. А. Ткачоў.*

**ДОЛАТАПАДО́БНЫЯ ПРЫЛА́ДЫ ПРА́ЦЫ**, інструменты першабытнага чалавека з крэменю для апрацоўкі косці і дрэва ў каменным веку. У якасці Д. п. п. (у літаратуры вядомы пад назвай «п'ес экайе») выкарыстоўвалі пласціны і адшчэпы з двухбаковымі сколамі, якія ў выніку вытворчых аперацый мелі хвалепадобную паверхню, кароткую лінію сколвання і ў большасці выпадкаў круты залом. Выкарыстоўвалі для атрымання насечак і дзяўбання загатоўкі. Звычайныя сярод археал. знаходак пры раскопках палеалітычных і мезалітычных стаянак.

*Літ.:* 1074.

**ДО́МЖАРЫЦЫ**, курганныя могільнікі каля в. Домжарыцы Лепельскага р-на.

Курганны могільнік. За 300 м на Пн ад вёскі, абапал палявой дарогі. 180 курганоў (было больш за 200) выш. 0,3—1,5 м, дыям. 3—8 м. Могільнік раздзелены ярам (у паўн. частцы 29 насыпаў, у паўднёвай — 151), з зах. боку абмежаваны балотам. Даследавалі ў 1931 тры курганы А. М. Ляўданскі, у 1975 два курганы В. Е. Собаль, у 1979 дзесяць пахаванняў Г. В. Штыхаў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў ямах (глыб. 0,4—0,7 м) галавой на З, некаторыя — на У або Пд. Узрост большасці пахаваных 30—45 гадоў. У 3 курганах знойдзены ляпныя і ганчарныя гаршкі, крывіцкія скроневыя кольцы, бронзавыя бранзалеты, шкляныя пацеркі. Датуецца 11 ст.



Долатападобныя прылады працы са стаянкі Замошша-1 Верхнядзвінскага р-на.




Да арт. **Домніца.** Сырадутныя печы ранняга жалезнага веку з гарадзішчаў Кімія (1) і Лабеншчына (2).

*Літ.:* 718. *Г. В. Штыхаў.*

**ДО́МНІЦА,** печ для атрымання жалеза непасрэдна з жал. руды шляхам яе аднаўлення, праўтварэння ў крыцы. Д. часта называюць сырадутнымі печамі, бо для атрымання тэмпературнага рэжыму ў іх падавалася непадагрэтае паветра. Сыравінай для Д. служылі балотная руда, драўняны вугаль і вапна ў якасці флюсу. Д. з'явіліся ў жал. веку. На тэр. Беларусі дзейнічалі з 1-га тысячагоддзя да н. э. Рэшткі Д. 1—7 ст. н. э. выяўлены ў Цэнтр. і Паўн. Беларусі на паселішчах *штрыхаванай керамікі культуры, днепра-дзвінскай культуры, банцараўскай культуры* [*Абрамава, Аздзяцічы,* Буракова *(Новы Болецк), Друцк, Кімія, Кублічы,* Кастрыца Лепельскага р-на, Лабеншчына Мінскага р-на, Свідна Лагойскага р-на, ва ўрочышчы Цербахунь бліз в. Канькі].

Д. з гарадзішча Кімія ўяўляла сабой глінабітнае збудаванне шахтавага тыпу. Яе дыям. да 0,9 м, выш. сценкі да 0,7 м. Д. на гарадзішчы Лабеншчына мела паўсферычную форму, дыям. каля 0,6 м, выш. да 0,4 м, таўшч. сценак 5—7 см. З-за значнай пашкоджанасці яна не паддаецца бясспрэчнай інтэрпрэтацыі. Мяркуецца, што ў перыяд жал. веку аб'ём Д. не перавышаў 0,15—0,2 м³, у часы Кіеўскай Русі павялічыўся да 0,45 м³. Верагодна, для падачы паветра ў печ выкарыстоўваліся мяхі, канструкцыя якіх невядома. Гліняныя трубкі (соплы) для надзімання паветра ў Д. мелі звычайна дыям. 5,5—6 см, дыям. канала — 2,2—2,5 см. Соплы выяўлены на развале Д. ў Друцку. Гл. таксама арт. *Горн.*

*Літ.:* 276, 326, 558. *М. Ф. Гурын.*

**ДОЎБАРАВА,** група археал. помнікаў каля в. Доўбарава Мінскага р-на.

Селішча. За 200—300 м на У ад вёскі, на левым беразе р. Пціч. Пл. каля 2 га. Выявіў у 1989 Ю. А. Заяц. Раскопкі не праводзіліся. Сабраны фрагменты керамікі 10—12 і 17—18 ст.

Курганны могільнік-1. За 200 м на Пн ад вёскі, у лесе. 35 насыпаў круглай і чатырохвугольнай формы выш. 0,6—2 м, дыям. 4—12 м. Даследаваў 5 насыпаў у 1989 Заяц. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на мацерыку галавою на З. Пахавальны інвентар: бронзавае скроневае пярсцёнкападобнае кольца, ножны ад нажа і жал. нож, шкляныя і сердалікавыя пацеркі, ганчарны посуд 11 ст. У 2 насыпах па перыферыі пахавальных пляцовак у неглыбокіх мацерыковых ямах круглай і авальнай формы выяўлены рэшткі крэміраваных пахаванняў. У адным з іх знойдзены фрагменты ганчарных гаршкоў 10 ст. Не выключана, што курганы насыпаны на

месцы больш ранняга бескурганнага могільніка.

Курганны могільнік-2. За 300 м на З ад вёскі, на ўзвышшы. Не захаваўся. *Ю. А. Заяц.*

**ДОЎГІХ КУРГАНОЎ ПАЎНОЧНАЙ БЕЛАРУСІ КУЛЬТУРА,** археал. культура полацкіх крывічоў, якія жылі ў бел. Падзвінні і Верхнім Падняпроўі. Назва ад доўгіх валападобных пахавальных насыпаў. Доўгімі курганамі ўмоўна лічаць насыпы, даўжыня якіх перавышае шырыню ў 2 разы і больш. Даўжыня такіх курганоў часам дасягае некалькіх дзесяткаў метраў, шыр. 8—10 м, выш. 1—2 м. Размяшчаюцца яны часта побач з круглымі і падоўжанымі курганамі, аднолькавымі па культуры. Пахавальны абрад — трупаспаленне па-за межамі кургана, пазней — на месцы яго ўзвядзення. Доўгія курганы адлюстроўваюць перыяд, калі на Пн Беларусі і суседніх тэрыторыях рассяляліся славяне, якія асімілявалі мясц. балцкае і угра-фінскае насельніцтва і ўтварылі групоўку ўсх. славян — крывічоў. Паводле лакальных асаблівасцей вылучаюць таксама культуры пскоўскіх і смаленскіх доўгіх курганоў. Пачатковым перыядам гэтай культуры быў *атокінскі варыянт банцараўскай культуры* (5—7 ст. н. э.). Археал. даныя пацвярджаюць, што ў доўгіх курганах пахаваны славянізаваныя балты ці славяне з моцным уплывам матэрыяльнай культуры балтаў.

*Літ.:* 1052, 1052а, 1331, 1636а. *Г. В. Штыхаў.*

**ДОЎГІЯ КУРГАНЫ,** валападобныя пахавальныя насыпы крывічоў 2-й пал. 1-га тысячагоддзя. Гл. *Доўгіх курганоў Паўночнай Беларусі культура.*

*Літ.:* 1063, 1343.

**ДОЎНАР-ЗАПОЛЬСКІ** Мітрафан Віктаравіч [2(14).6.1867— Рэчыца — 1934], беларускі гісторык, фалькларыст, этнограф і археолаг. Д-р гіст. навук (1905). Скончыў Кіеўскі ун-т (1894). З 1898 працаваў у Маскоўскім архіве Міністэрства юстыцыі, з 1899 прыват-дацэнт Маскоўскага, з 1901 — Кіеўскага ун-таў. У 1925 правадзейны член і кіраўнік гіст.-археал. камісіі Інбелкульта і праф. БДУ. З 1926 у Маскве. Аўтар шматлікіх навук. прац па праблемах гісторыі, этнаграфіі, археалогіі, археаграфіі, фалькларыстыкі, эканомікі, літаратуразнаўства, крыніцазнаўства і інш. Пастаянна сачыў за археал. раскопкамі на тэр. Беларусі. Супрацоўнічаў з археолагам У. З. *Завітневічам,* удзельнічаў у яго экспедыцыях, улічваў у сваёй практыцы работы Е. Р. *Раманава,* В. А. *Шукевіча,* Ф. В. *Пакроўскага* і інш. Бел. археолагі выкарыстоўвалі яго працу «Нарыс гісторыі Крывіцкай і Дрыгавіцкай земляў да канца XII ст.» (1891). Удзельнічаў у рабоце 9-га і інш. археал. з'ездаў. У 1926 удзельнічаў у раскопках гарадзішча *Банцараўшчына.* Даследаваў межы рассялення крывічоў і дрыгавічоў. На падставе аналізу археал. і фальклорна-этнаграфічных матэрыялаў выказаў думку пра шматабраднасць рэлігій усіх першабытных народаў і захаванасць многіх з іх да пазнейшых часоў. Аўтар публікацыі «Археалагічнае вывучэнне Мінскай губерні» (1892), кнігі «Асновы дзяржаўнасці Беларусі» (1919).

*Літ.:* 299. *Г. А. Каханоўскі.*

**ДРАГІЧЫНСКІ БЕСКУРГАННЫ МОГІЛЬНІК,** археал. помнік плямён паморскай культуры каля чыг. ст. Драгічын. За 2 км на ПнУ ад станцыі, на пясчаным узгорку сярод забалочанага поплава (цяпер на яго месцы асфальтавы з-д). Даследавалі ў 1962 Ю. У. Кухарэнка і В. Б. Нікіціна-Караткевіч (5 пахаванняў з трупаспаленнем). У 3 пахаваннях кальцыніраваныя косці ссыпаны ў невял. ямы, у 2 гліняныя урны (адна накрыта 2 перавернутымі міскамі, другая — міскай і вял. клёшам). Посуд ляпны.

*Літ.:* 828. *В. С. Вяргей.*





Гаршкі паморскай культуры з **Драгічынскага бескурганнага могільніка.**





Да арт. **Доўгіх курганоў паўночнай Беларусі культура.** Ляпныя гаршкі з курганных могільнікаў Дарахі. 9 ст.

**ДРАГУН** Юрый Іосіфавіч (н. 14.5. 1926, Мінск), беларускі гісторык, археолаг. Канд. гіст. навук (1971). Скончыў БДУ (1960). З 1960 у Ін-це гісторыі АН БССР, з 1962 у БДУ. Даследаваў дзядзінец стараж. Оршы (1965—68; выявіў планіроўку і забудову, вызначыў дату ўзнікнення Оршы як горада, вывучаў яго матэрыяльную культуру), раннеславян. гарадзішчы і селішчы, курганныя пахаванні 11—13 ст. на Міншчыне.

*Тв.:* Орша: Ист.-экон. очерк. 2 изд. Мн., 1967 (у сааўт.); Да пытання аб летапісным Одрэску // Весн. БДУ. Сер. 3. 1977. № 1; У истоков белорусской советской историографии // Академик В. И. Пичета: Страницы жизни. Мн., 1981.

**ДРАЖНЯ,** паселішча эпохі бронзы і зарубінецкай культуры каля в. Дражня Светлагорскага р-на. За 1,5 км на З ад вёскі, ва ўрочышчы Ліпавы Бугор, на левым беразе безназоўнага прытока Бярэзіны, на выш. 3 м над поплавам. Пл. каля

1 га. Выявіў у 1981 М. У. Бычкоў, у 1983 244 м² раскапала Н. М. Дубіцкая. У культурным пласце таўшч. 0,3—0,6 м знойдзены матэрыялы некалькіх эпох.

Самыя раннія знаходкі эпохі бронзы: абломкі посуду з кропкавым арнаментам, крамянёвыя вырабы (скрабкі, нажападобныя пласціны). Больш за 90 % усіх знаходак складаюць абломкі неглянцаваных керамічных пасудзін 1 ст. н. э., трэць якіх пакрыта штрыхамі, што сведчыць пра знаходжанне паселішча ў зоне кантактаў плямён зарубінецкай і штрыхаванай керамікі культур. Знойдзены фрагменты глянцаваных гаршкоў і рабрыстай міскі.

*Літ.*: 334. *Н. М. Дубіцкая.*

ляў матэрыялы, знойдзеныя ў час раскопак у Навагрудку. У канцы 1930-х г. правадзіў археал. разведку ў Дзісенскім пав. Паводле яго запісаў выяўлена некалькі дзесяткаў гарадзішчаў, у т. л. каля населеных пунктаў Свіла, Залессе, Задвор'е, Багушэвічы, Зароўе, Зябкі, Ластаўкі, Галубічы, Псуя, Крукоўшчына, Гараватня, Падавуты (Глыбоцкі р-н), Сквірцы, Язна (Міёрскі р-н), Пашкі, Сталіца, Гарадзец (Шаркоўшчынскі р-н), курганоў, у т. л. каля вёсак Крукоўшчына, Зубкі, Зарубчыкі, Скабянцы, Зябкі, Хвашчова (Глыбоцкі р-н), Гарадзец (Шаркоўшчынскі р-н). Адкрыў некалькі

**ДРАЙГРО́ШЭР** (ням. Dreigröscher), нямецкая назва манеты наміналам у *тры грошы* ў 17—18 ст.

**ДРАЙПЕ́ЛЬКЕР** (ням. Dreipölker тры паўгрошы; Pölchen, Polki назва ў Герм. польскіх паўгрошаў), т р ы п а ў г р о ш ы, п а ў т а р а г р а ш о в і к, нямецкае найменне польскага паўтарака. Назва «Д.» часта ўжываецца ў адносінах да германскіх грошэнаў 2-й пал. 16—17 ст., тып якіх быў пераняты паўтаракам.

**ДРАЎЛЯ́НЕ**, племянное аб'яднанне



М. В. Доўнар-Запольскі.



Ю. І. Драгун.



Я. Н. Драздовіч.

**ДРАЗДО́ВІЧ** Язэп Нарцызавіч [1(13).10.1888 — б. засценак (цяпер хутар) Пунькі, Глыбоцкі р-н — 1954], беларускі жывапісец, графік, скульптар, фалькларыст, археолаг. Вучыўся ў Віленскай мастацкай школе (1906—10). У 1919 працаваў у Мінску ў Бел. літаратурна-выдавецкім аддзеле пры Наркамаце асветы, мастаком у Бел. дзярж. тэатры. У 1920-я г. выкладаў маляванне ў Радашковіцкай і Навагрудскай бел. гімназіях, заснавальнік мастацкай студыі пры Віленскай гімназіі (1927). Актыўна ўдзельнічаў у дзейнасці Бел. сялянска-работніцкай грамады. У 1926—27 супрацоўнічаў у сатырычным часопісе «Маланка». Выдаў брашуру па астраноміі «Нябесныя бегі», спрабаваў займацца літаратурнай творчасцю. Аўтар шматлікіх жывапісных і графічных работ на гіст. тэмы. Запісваў фальклор і апрацоўваў для слоўнікаў нар. лексіку Дзісеншчыны і Піншчыны. У пач. 1920-х г. даследаваў у Мінску рэчышча р. Няміга, правадзіў раскопкі ў Заслаўі і яго ваколіцах, у г. п. Свір Мядзельскага р-на. Супрацоўнічаў з Іванам і Антонам Луцкевічамі, заснавальнікамі *Беларускага музея* ў Вільні, у які адпраўляў стаянак і селішчаў каменнага і бронзавага вякоў, шмат каменных крыжоў, сабраў калекцыю каменных сякер. Рабіў планы і замалёўкі гарадзішчаў і замкаў. Вёў археал. дзённікі, аб'яднаныя пад назвай «Дзісенская дагістарычная старына», дзе запісваў паданні і гіпотэзы пра помнікі археалогіі. Напр., меркаваў, што Гарадзец над Мнютай быў абарончай крэпасцю Полацкага княства (гіпотэза пацверджана даследаваннямі Г. В. Штыхава). Стараж. курганы лічыў пахаваннямі язычнікаў. Выявіў некалькі могільнікаў са старaслав. надпісамі на плітах і рэшткі мураваных падзямелляў. У рукапісе арт. «Дзе знаходзяцца Дудуткі і Гародня, якія ўпамінаюцца ў «Слове аб палку Ігаравым» прапанаваў гіпотэзу, паводле якой Дудуткі — гэта ўрочышча Дадэкі каля вёсак Тупічына і Сіпаліна ў Шаркоўшчынскім р-не, а Гародня — гарадзішча «Царковішча» каля воз. Гародня (Сетаўскае). Архіў Д. захоўваецца ў аддзеле рэдкай кнігі і рукапісаў Цэнтр. навук. бібліятэкі АН Беларусі, матэрыялы раскопак — у фондах Дзярж. музея Беларусі.

*Літ.*: 684. *Э. М. Зайкоўскі.*

ўсх. славян у 8—10 ст., якое жыло на правабярэжжы Прыпяці (Укр. Палессе), у міжрэччах Гарыні, Случы, Цецерава, Дняпра. Назва паходзіць ад лясной мясцовасці. Паводле археал, даследаванняў, на У мяжавалі з *палянамі*, на З па Случы з *валынянамі* і *бужанамі*, на Пн з *дрыгавічамі*, ад якіх аддзелены былі балотамі шыр. 50—60 км уздоўж правага берага Прыпяці. Самыя старaж. помнікі Д.— курганныя могільнікі з трупаспаленнем і урнамі пражска-карчакскага тыпу ў верхняй частцы насыпу ці на гарызонце, па 1—3 пахаванні ў кургане, пазней — па 1. З канца 10 ст. аднaчасова з трупаспаленнем з'яўляюцца курганы з трупапалажэннем на гарызонце, у насыпе або яме, часта ў драўляных труне або калодзе, галавой на З. Пахавальны інвентар — пярсцёнкападобныя скроневыя кольцы, шкляныя і сердалікавыя пацеркі, лунніцы, бразготкі, бронзавыя гузікі, жал. нажы, крэсівы, тачыльныя брускі, жал. абручы і дужкі ад драўляных вёдзер. Займаліся земляробствам, жывёлагадоўляй, ганчарствам, ткацтвам, апрацоўкай жалеза. Жылі ў паўзямлянках. Галоўныя гарады: Уручый (Оўруч), Гарадок; у Іскора-

сцені (Корасцень) жыў князь і старэйшыны з мясцовай знаці. На тэр. арэала Д. выяўлена 20 гарадзішчаў. У 9—10 ст. мелі сваё палітычнае аб'яднанне — «княжанне». У 883 кіеўскі кн. Алег прымусіў Д. плаціць яму даніну, у пач. 10 ст. ўдзельнічалі ў паходзе на Візантыю. На думку некаторых даследчыкаў, Д. ў 10 ст. ўзначальвалі племянны саюз, у які ўваходзілі дрыгавічы і валыняне. Пасля смерці Алега хацелі адасобіцца, перасталі плаціць даніну. Кн. Ігар наважваўся зноў падпарадкаваць іх, але быў імі ў 945 забіты. Яго жонка кн. Вольга жорстка расправілася з Д.— спаліла іх гарады і вынішчыла знаць. Тэрыторыя Д. была далучана да Кіева і стала ўдзельным княствам з цэнтрам у г. Уручый. Апошні раз упамінаюцца пад 1136, калі кіеўскі кн. Яраполк падараваў частку іх зямель Дзесяцiннай царкве ў Кіеве.

*Літ.*: 776а, 1052. *Г. В. Штыхаў.*

**ДРА́ХМА** (грэч. drachma жменя, кісць), 1) тавар-грошы Стараж. Грэцыі — 6 жал. 4-гранных прутоў, якія змяшчаліся ў кісці рукі. 2) Старажытнагрэч. сярэбраная манета, якая з'явілася ў 6 ст. да н. э. Маса яе залежала ад манетнай сістэмы: эгінская Д. 6,07 г, карынфская — 2,91 г і інш. 3) Сярэбраная манета цароў іранскай дынастыі Сасанідаў (маса да 6,50 г). Абарачалася ў Стараж. Русі ў 1-й трэці 9 ст. 4) Сучасная грашовая адзінка Грэцыі.

*Літ.*: 1538, 1585.

**ДРО́ЗДАВА,** курганныя могільнікі крывічоў каля в. Дроздава Талачынскага р-на.

Могільнік-1. За 400 м на Пн ад вёскі, злева ад дарогі на в. Скавышкі. Захаваліся 2 курганы дыям. 6 м, выш. 1,5 м. У 1970 даследавала 5 курганоў З. М. Сяргеева. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў дамавіне (устаноўлена па знаходках у кожным пахаванні жал. цвікоў і іх фрагментаў). У жаночых пахаваннях знойдзена 39 цыліндрычных і бочачкападобных залачоных шкляных пацерак, пярсцёнкі (2 сярэбраныя пласціністыя з арнаментам і адзін драцяны з патоўшчанай сярэдзінай і звужанымі заходзячымі канцамі). Датуецца 11 ст.

Могільнік-2. За 500 м ад могільніка-1, у лесе. Складаецца з 2 груп могільнікаў (13 і 24 курганы) на адлегласці 50 м адна ад адной. Усе насыпы круглаватыя, дыям. 7—9 м, выш. 1,7—1,8 м. Адкрыў у 1925 Д. З. Васілеўскі, абследавалі ў 1959 Л. В. Аляксееў, у 1972 А. Р. Мітрафанаў, у 1987 групу з 13 курганоў даследавала В. М. Ляўко. Пахавальныя абрады — трупаспаленне, трупапалажэнне галавой на З і пераходны (частковае спаленне трупаў на гарызонце ці ў насыпе). Спальвалі на месцы ў цэнтры або на краі насыпу. У 2 курганах зафіксавана дадатковае і парнае трупапалажэнне мужчыны і жанчыны на гарызонце, у адным — у драўлянай скрыні. Знойдзены фрагменты ганчарных гаршкоў з лінейным або хвалістым арнаментам, прамым або адагнутым вонкі венчыкам, дужка і 3 абручы ад драўлянага вядра, нажы з драўлянымі тронкамі.

У ліку жаночых упрыгожанняў пацеркі (рознай формы шкляныя, чорныя каралавыя, сердалікавыя, залачоныя, з пясчаніку, бірузовага фаянсу), сярэбраныя падкованападобная фібула, пласціністы пярсцёнак з разеткай, скроневыя кольцы рознай велічыні, бронзавыя фібула, віты бранзалет з завязанымі канцамі, пярсцёнкі, скроневыя кольцы, жал. падкованападобная фібула.

Вылучаюцца мужчынскія пахаванні ў 2 курганах з трупапалажэннем на падсыпцы з рэчамі (нож, набор вагавых гірак, сякера, крэсіва з крэменем). Нябожчыкі прысыпаны зямлёй, на якой быў разведзены касцёр, на вогнішчы знойдзены вагавая шаля, ключ, 2 жал. спражкі, 2 крэсівы, бронзавы рыбалоўны кручок. Пазней курганы дасыпаны. У адным з курганоў пахаванні не выяўлены, у разрэзе прасочваецца да 6—8 тонкіх попельна-вугальных праслоек, што дае падставу аднесці яго да месца правядзення рытуальных пахавальных або памінальных язычніцкіх абрадаў. Датуецца 2-й пал. 10—1-й пал. 11 ст.

*Літ.*: 34, 190, 668а. *В. М. Ляўко.*

**ДРО́ЦІК,** кароткае кап'ё для кідання з крамянёвым, касцяным або жал. наканечнікам. Вядомы з эпохі верхняга палеаліту. Для павелічэння далёкасці і сілы кідка (да 70—80 м) выкарыстоўвалі раменную пятлю. У эпоху Кіеўскай Русі вядомы пад назвай суліца, якая ўжывалася ў конніцы да 17 ст. У пісьмовых крыніцах згадваецца ў «Слове аб палку Ігаравым» (12 ст.) як зброя першага ўдару дружыннікаў. На Беларусі наканечнікі жал. Д. знойдзены на помніках ранняга жал. веку (*Чаплін. Гарошкаў, Звязда, Лабеншчына. Банцараўшчына, Малышкі*) і эпохі Кіеўскай Русі (Чачэрск, Дрысвяты, Ваўкавыск, Навагрудак, Гродна і інш.). *М. А. Ткачоў.*

**ДРУГІ́ УСЕБЕЛАРУ́СКІ КРАЯЗНА́ЎЧЫ З'ЕЗД.** Адбыўся 10—13.2.1926 у Мінску; 187 дэлегатаў ад




**Драйпёлькер.** Германская імперыя: Гановер — 1. г. Гёцінген, 1606; 2. г. Эймбек, 1614; 3. г. Гільдэсгайм, 1601; 4. Гільдэсгайм (епіскапства), Эрнст, 1606. Вестфалія — 5. Рытберг (графства), Іаан III, 1616; 6. Шаўмбург (графства), Эрнст, 1602. Рэйнланд — 7. Юліх, Клеве і Берг (графства), Іаан Вільгельм, 1606. Саксонія — 8. Штольберг (графства), Генрых XXII і Вольфганг Георг, 1614; 9. Гальберштат (епіскапства), Хрысціян, 1617; 10. г. Магдэбург, 1616. Ніжняя Саксонія — 11. Шлезвіг-Гальштэйн-Гатарп (герцагства), Іаан Адольф, 1601. Шведская Прыбалтыка: 12. Крысціна Аўгуста Ваза (Рыга), 1648.

краязнаўчых арганізацый, якія аб'ядноўвалі 9 тыс. чалавек і 18 музеяў. З'езд абмеркаваў пытанні арганізацыі і метадычнага забеспячэння краязнаўчага руху, удакладніў план вывучэння паасобных раёнаў Беларусі, прыняты на *Першым Усебеларускім краязнаўчым з'ездзе.* Даклад З. І. Даўгялы «Укладанне археалагічнай карты Беларусі» быў прысвечаны праблеме археал. вывучэння тэр. рэспублікі, падкрэсліваў выключную ролю помнікаў матэрыяльнай культуры ў высвятленні спрэчных пытанняў стараж. гісторыі Беларусі, ставіў перад краязнаўцамі задачу выяўляць і захоўваць стараж. паселішчы і могільнікі, ажыццяўляць укладанне археал. карт па кожным сельсавеце, пашыраць гіст. веды сярод насельніцтва. Асн. даклады з'езда надрукаваны ў зборніку «Працы Другога Усебеларускага краязнаўчага з'езда» (1927).

*В. С. Вяргей.*

**ДРУ́ЖБА,** група археал. помнікаў каля в. Дружба Брэсцкага р-на.

Паселішча-1. За 200 м на Пн ад вёскі, справа ад дарогі ў в. Нясвіла, на надпоймавым узвышшы левага берага р. Лясной. Памер 150×80 м. Адкрыла і абследавала ў 1966 І. П. Русанава, у 1980, 1985 абследавала Т. Н. Каробушкіна. На мацерыку выяўлены цёмныя плямы рэштак 6 жытлаў, размешчаны групамі за 5—10 м адна ад адной. Культурны пласт таўшч. 0,3—0,35 м, разворваецца. Знойдзены кавалкі ляпных гаршкоў, арнаментаваных ямкамі, нанесенымі палачкай, абломкі танкасценнай глянцаванай ляпной міскі 4—2 ст. да н. э., а таксама ганчарны посуд сярэднявечча (9—10 ст.).

Паселішча-2. На Пн ад паселішча-1, за ручаём. Памер 140×35—40 м. Адкрыла і даследавала 360 м² у 1966 Русанава. Культурны пласт 0,3—0,8 м. Выяўлена 7 пабудоў, размешчаных групамі за 5—10 м адна ад адной. Жылыя пабудовы мелі глінабітныя печы і падлогі. Адна з гасп. пабудоў невял. па памерах, запоўнена вугалем і шкляным шлакам. Знойдзена шмат керамікі 9—10 ст., вырабаў з жалеза (серп, рыбалоўнае грузіла, нажы, шыла, крэсівы, цуглі, цвікі), свінцовае грузіла, шкляныя пацеркі. У больш ніжнім пласце выяўлена кераміка 4—2 ст. да н. э. паморскай культуры. У 1980, 1985 яго абследавала Каробушкіна. Культурны пласт захаваўся толькі ў паўд. частцы. Выяўлены рэшткі 2 спаленых наземных драўляных пабудоў (памеры 115×95 і 90×70 см), размешчаных на адлегласці 70 см адна ад адной. Знойдзена ганчарная кераміка 4—2 ст. да н. э., з адагнутым венчыкам, упрыгожаная лінейным і хвалістым арнаментам. Пасля 10 ст. паселішча пакінута ўсх. славянамі.

Курганны могільнік. На паўд. ускраіне вёскі. У канцы 19 ст. К. Ягнін сабраў на ім ганчарную кераміку, рэчы з жалеза, бронзавы пярсцёнак, шкляныя пацеркі. У тыя часы помнік быў разбураны. У 1959 абследаваў Ю. У. Кухарэнка. Знойдзены абломкі ганчарнага посуду, чалавечыя косці, па якіх можна меркаваць, што пахавальны абрад — трупапалажэнне.

*Літ.*: 999. *Т. М. Каробушкіна.*

**ДРУ́ЖБА,** група археал. помнікаў каля в. Дружба (б. Рылаўшчына) у межах г. Мінска.

Селішча. На Пд і ПдЗ ад вёскі, на правым беразе р. Лошыца, абапал шашы Мінск — Брэст і вул. Касманаўтаў. Пл. каля 3 га, культурны пласт да 0,5 м. Выявіў у 1986 С. Л. Захараў, даследаваў 1110 м² у 1986 і 1987 Ю. А. Заяц. Выяўлены рэшткі 16 наземных жылых зрубных пабудоў (падпольныя і прыпечныя ямы з разваламі каменных і глінабітных печаў), сляды вытворчасці жалеза (рэшткі 2 плавільных печаў і вял. колькасць шлакаў).

Знойдзены шматлікія фрагменты ганчарнага посуду 10—1-й пал. 13 ст., жал. нажы, цвікі, цуглі, крэсіва, шыла, іголка, ключ, падкowападобная фібула,




**Драхма.** Старажытная Грэцыя: 1. Геміндрахма (паўдрахма), 410 г. да н. э.; 2. Драхма 410 г. да н. э.; 3. Дыдрахма (2 драхмы), 480 г. да н. э.; 4. Тэтрадрахма (4 драхмы), 323—281 г. да н. э. Іран. Сасаніды 5. Варахдан V [420—438]; 6. Пéраз [457/459—484]; 7. Кавад I [488—496]; 8. Хасроў I [531—579]; 9. Хасроў II [591—628]; 10. Йездзегерд II [637—651].



Пацеркі з курганнага могільніка-2 **Дроздава.**

кальцо ад дзвярэй, наканечнік суліцы, бронзавыя бранзалеты, пярсцёнкі, завушніца, гліняныя прасліцы, тыгель. У ліку імпартных рэчаў — шыферныя прасліцы, хрусталёвая пацерка, тачыльныя брускі, фрагменты амфар. Сярод ганчарных клеймаў адзначаны выявы трызубца, фрагмент трызубца прасочваецца і на сценцы амфары. У верхняй частцы культурнага пласта знойдзены керамічны посуд 16—18 ст.

Курганны могільнік дрыгавічоў. За 200 м на ПнУ ад вёскі. Даследаваў у 1925 І. А. Сербаў. 10 круглых насыпаў выш. 1—4,4 м, дыям. 5,5—14 м. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на падсыпцы галавой на З. Пахаванні адзіночныя і парныя, у адным кургане — трайное. У некаторых курганах у галавах і ў нагах асноўнага (цэнтральнага) пахавання плямы попелу і вугалёў ад рытуальных вогнішчаў. У 2 курганах пахаванні ў мацерыковых ямах глыб. да 0,5 м, дно прысыпана тонкім слоем белага пяску. У жаночых пахаваннях выяўлены рэшткі дамавін. Пахавальны інвентар: скроневыя кольцы, жал. шыйная грыўня, пацеркі (сердалікавыя васьміграннныя і біпірамідальныя, золаташкляныя і срэбныя зярнёныя), пярсцёнкі з бронзавага дроту, спражка, жал. вушка і абручы ад вядра, сякера, касцяны грэбень у футарале, ганчарныя гаршкі. Некаторыя пахаванні без інвентару. У большасці курганоў блізка ад іх вяршыні выяўлены вогнішчы ад памінальнай трызны, у якіх знойдзены косці свойскай жывёлы, рыб, птушак, фрагменты керамічнага і шклянога посуду. Датуецца канцом 10—11 ст.

*Літ.*: 1082, 1362. *Ю. А. Заяц.*



Тачыльныя брускі (1,2), ключ (3), іголка (4), шыла (5), нажы (6, 7, 8, 9), крэсіва (10), вушка ад вядра (11), кольца ад дзвярэй (12), кольца ад цугляў (13), фібула (14), фрагменты цугляў (15, 16, 17), прасліцы (18—21) 10—12 ст. з паселішча **Дружба**.

**ДРУ́ЙСКІ ЗА́МАК.** Існаваў у 14—18 ст. у сутоках рэк Друйка і Зах. Дзвіна ў Браслаўскім р-не. Паводле некаторых звестак, першапачатковы замак размяшчаўся на левым беразе Друйкі, на тэрыторыі т. зв. «Старого места», пасля 1515 перанесены на правы бераг. З тактычнага пункту гледжання месцазнаходжанне *Друі* і замка было не вельмі ўдалым. Замак не мог заняць нізкі і малы выступ каля ўпадзення Друі ў Зах. Дзвіну, таму што вясной ён пастаянна затапляўся. Акрамя таго, з У над выступам узвышалася гара, якая пры занядбасці яе праціўнікам магла быць выкарыстана для ўстаноўкі артылерыі і абстрэлу замка. Пасля 1515 было вырашана збудаваць замак на гэтым узвышшэнні, але і тут для ўмацавання было не лепшае месца, бо амаль з усіх бакоў меліся доўгія і пакатыя схілы, зручныя для атак праціўніка, а Зах. Дзвіна і Друйка знаходзіліся на значнай адлегласці ад замка. Тым не менш «Полоцкая ревизия» 1552 зафіксавала Друйскі «замок спольный» братоў кн. Масальскіх на левым беразе Зах. Дзвіны. «Замок оборонный» абкружыла мястэчка, у якім было 112 дымоў (двароў) і 800 жыхароў. Пра структуру замкавых умацаванняў у дакуменце не паведамляецца. Верагодна, што ў Друі яны былі ў занядбаным стане.

Роля Д. з. ў Лівонскай вайне 1558—83 не высветлена, хоць тут у пач. вайны размяшчаўся конны атрад. «Лист» аб перамір'і за 1594 называе Д. з. у ліку замкаў Падзвіння. У гіст. крыніцах за 1594 ёсць упамінанне аб «опалом замку Друйском», што сведчыць пра стан умацаванняў таго часу. 8.3.1618 Іван Станіслававіч Сапега аб'явіў, што каля сутокаў Друі і Зах. Дзвіны ён закладвае новы горад Сапежын «у валу і острогу», які ён забяспечыць зброяй і інш. абарончымі сродкамі. Адной з мэт закладкі Сапежына была абарона мяжы ВКЛ. Хоць у 1632 Друю занялі рус. войскі, горад у хуткім часе адрадзіўся. Тут дзейнічалі рамесныя цэхі, жылі збраёвыя майстры — мечнік, людвісар, слесары і інш. У 1657 у Друі размясцілася 2 тыс. чалавек рус. пяхоты і казакоў на чале з ваяводам Пронскім. Цар загадаў ваяводзе І. С. Ціхменеву «для береженья и от приходу воинских людзей острог делать друйскими посацкими и уездными жилецкими всякими людьми». У кастрычніку 1657 ваявода пачаў будаваць у Задруйскай слабадзе на правым беразе Зах. Дзвіны «на Полоцкой стороне» драўляны астрог. Аднак цар указаў, што Ціхменеў задумаў узводзіць занадта вял. ўмацаванні, «велми не по людям, на 600 саженех» даўжыні, таму рэкамендавалася «острог делать на 300 саженях». Ужо ўзведзеныя вежы належала пераставіць на новае месца. У астрозе ставіліся гарматы — друйская пішчаль з запасам ядраў і свінцу і, часова, да адсылкі ў Полацк, 5 віленскіх і ковенскіх пішчаляў. Цар не выключаў варыянта пераносу пачатага астрога на левы бераг Зах. Дзвіны — у Друю. 24.1.1664 рус. войскі зрабілі рэйд з-пад Люцына «за Двину реку... и Друю и Друйское место высекли и выжгли...». Пасля заканчэння вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 Д. з. быў адноўлены на левым беразе Зах. Дзвіны, але свайё магутнасцю не вылучаўся. У 18 ст. паступова ён прыйшоў у заняпад. У наш час сляды сярэдневяковых умацаванняў Д. з. растварыліся пад шчыльнай гар. забудовай. Археал. даследаванні Д. з. праводзілі ў 1972 і 1976 М. А. Ткачоў, у 1986—88 В. Я. Зайцава.

*Літ.*: 489, 928, 1044, 1432, 1433, 1487. *М. А. Ткачоў.*

**ДРУЦК** (летапісны Д р ю т ь с к, Д р ь т е с к, Д р ь ю т с к), старажытны горад Полацкай зямлі каля в. Друцк Талачынскага р-на, на высокім правым беразе р. Друць. Паводле запісу ў Друцкім евангеллі 14 ст. існаваў ужо ў канцы 10 ст., у 1001 тут пабудавана царква (сабор). Летапісы ўпершыню ўпамінаюць Д. пад 1092, у «Павучанні» Уладзіміра Манамаха названы ў сувязі з падзеямі 1078. З 1-й пал. 12 ст. цэнтр Друцкага ўдзельнага княства, якім валодалі нашчадкі полацкага кн.

Усяслава Брачыславіча. Горад меў дзядзінец (пл. каля 1 га), умацаваны валам выш. 10 м і ровам глыб. 12 м на Пд і 6 м на З. З Пн да дзядзінца прымыкаў вакольны горад (пл. 1,3 га) умацаваны валам выш. 7 м і глыбокім ровам. На абодвух валах знаходзіліся вежы і сцены-гародні. Да ўмацаванага горада прымыкаў неўмацаваны пасад па плошчы большы за дзядзінец і вакольны горад, дзе жыла гар. бедната і рамеснікі. У 1116 Д. разбураны войскамі паўд.-рус. князёў. У 1159 гараджане выступілі супраць кн. Глеба Расціславіча і пасадзілі кн. Рагвалода Барысавіча. З 1180 Д. уцягнуты ў барацьбу смаленскіх князёў з чарнігаўскімі. У 12—13 ст. дзядзінец Д. быў шчыльна забудаваны малымі сядзібамі, якія складаліся з жытла і 1—2 гасп. пабудоў. Сядзібы размяшчаліся адна каля адной, былі агароджаны парканамі. Драўляныя жытлы пл. каля 16 м$^2$ былі зрублены «ў абло», ацяпляліся глінабітнымі печкамі-каменкамі. Вуліцы былі вузкія, вымашчаныя бярвеннем. Насельніцтва займалася прадзівам, ткацтвам, кравецтвам, шавецтвам, ювелірнай, касцярэзнай, цяслярнай, слясарна-кавальскай справай. Найбольшы росквіт Д. прыпадае на 1230—40-я г. З 13 ст. Д. разам з інш. гарадамі Полаччыны ў складзе Вял. кн. Літоўскага. З 14 ст. ў Д. існаваў *Друцкі замак*. У 15 ст. Друцкае кн. падзялілася на некалькі дробных удзелаў, якія ў 1508 ненадоўга перайшлі пад уладу Маскоўскага кн. Новы прамы шлях з Вільні ў Маскву праз Талачын пачаў і паскорыў занепад Д.







Збан, фрагменты шкляных бранзалетаў і ювелірны малаточак 12—13 ст. **Друцк.**

Першыя археал. раскопкі Д. праводзіў у 1930 А. Дз. Каваленя, у 1956—62, 1965, 1967 даследаваў Л. В. Аляксееў. Выяўлены рэшткі пабудоў 11—12 ст., знойдзены фрагменты ляпной керамікі канца 1-га тысячагоддзя, рэчы хатняга ўжытку (замкі, ключы, крэсівы, грабяні, ручныя жорны і касцяныя порхліцы да іх, гліняныя пасудзіны), прылады працы рамеснікаў (тыглі, ліцейныя формы для ювелірных вырабаў, шылы, шыферныя прасліцы, з іх 2 з надпісамі «кьняжинъ» і «лила», іголкі), рэчы ваеннага ўжытку (утулкавыя двухшыпныя, бранябойныя веслападобныя і арбалетныя наканечнікі стрэл 13—14 ст., фрагменты кальчугі, калчана, наверша мяча, кап'ё, кісцяні, арнаментаваныя пласціны ад панцыра), рыштунку конніка (шпоры, страмёны, цуглі, спражкі і кручкі для замацавання шпор), ювелірныя вырабы (шахматныя фігуркі, шкляныя, сярэбраны са сканню і бронзавы віты бранзалеты, бронзавыя і сярэбраны віты пярсцёнкі, пацеркі-лімонкі і залатыя шпількі, падвескі, сярэбраныя нашыўныя бляшкі), прадметы хрысціянскага культу (крыжы-энкалпіёны, нацельныя крыжыкі, 2 змеевікі, рэшткі бронзавай царкоўнай люстры і інш.), а таксама паліваныя керамічныя пліткі, пісалы, бронзавыя засцежкі для кніг. Выяўлены рэшткі гарадскога некропаля 10 ст. з пахавальным абрадам трупаспалення на падсыпцы або ў насыпе (рэшткі крэмацыі ссыпаны ў ляпныя або ганчарныя урны).

*Літ.*: 46, 57, 871, 1346.

*Л. В. Аляксееў.*

**ДРУ́ЦКІ ЗА́МАК.** Існаваў у 14—17 ст. у сярэдневяковым г. *Друцк* (каля сучаснай вёскі Друцк Талачынскага р-на). Меў складаную сістэму абароны, якую ўтваралі замак і падзамак. Замак размяшчаўся на правым беразе р. Друць, меў у плане форму няправільнага прамавугольніка, што паўтарала канфігурацыю занятага замкам узвышэння (натуральнага і насыпнога). Амаль гарызантальная пляцоўка замчышча (140×80 м) узвышалася над узроўнем ракі на 22 м і была абведзена магутным валам (і цяпер дасягае выш. 10 м), мела перад сабой абарончы роў, які ў паўд. частцы даходзіў да 12 м, у зах.— да 6 м глыбіні. Паўкруглую пляцоўку падзамка (170×100 м) таксама абкружаў вал выш. каля 7 м. З боку поля яна была адрэзана ад астатняй часткі берагавога плато дугападобным ровам, за якім, абгінаючы ўмацаванні з Пн, З і У, размяшчаўся сярэдневяковы горад.

У 1506 крымскі хан Махмет Гірэй напаў на землі Цэнтр. Беларусі і пусціў загоны да Вільні, Віцебска, Полацка і «в Друцку много зла сотворил». Наваколле горада, відаць, было спалена. У 1514, 1524 і 1535 Друцк быў разрабаваны рус. войскамі. У 1544 дакументы зафіксавалі часткі «держанья» кн. В. Ю. Талачынскага, які сведчыў, што «...в замку Одруцку, которые части мне пришли от братьи моей, тых частей моих $^1/_3$ часть в замку Верхнем и Нижнем городище и на месте (у горадзе) у дворищах мещанских, и в огородах, и в землях пашных тых же дворищ мещанских». Звесткі пра «Горны» (Верхні) і «Дольны» (Ніжні) замкі ёсць таксама ў дакументах за 1545 і 1549. Можна сцвярджаць, што друцкія ўмацаванні будавалі сяляне, але канкрэтна, колькі чаго і з якіх сёл, невядома. Паводле «Списанья замку Друцкого», яны ўзводзілі «Горны» замак Друцка, дзе ў той час стаялі 4 вежы, у т. л. вежа-брама, 80 гародняў і 2 дамы паміж імі. Апісанне Д. з. ёсць у «Хроніцы Еўрапейскай Сарматыі» (1578, 1581), выдадзенай польскім гісторыкам А. Гваньіні, які ў 1558—83 быў камендантам Віцебскіх зямель: «Одручко-замак на гары высокай, драўляны, некалі быў княствам, цяпер многа шляхты рускай тытул этага княства ўжывае». На картах Еўропы за 1562, 1589, 1595 і 1613 замак «Одручк» пастаянна пазначаўся ўмоўным значком. Занепад Д. з. адбыўся, верагодна, у сярэдзіне 17 ст. У дакументах перыяду вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 пра Д. з. не ўпамінаецца.



Наверша мяча 12—13 ст. з **Друцка.**

*Літ.*: 46, 743, 925, 926. *М. А. Ткачоў.*

**ДРУЯ,** гарадскі пасёлак (з 1940) у Браслаўскім р-не, пры ўпадзенні р. Друйка ў Зах. Дзвіну. За 30 км на ПнУ ад Браслава. Упершыню ўпамінаецца ў «Хроніцы польскай, літоўскай, жамойцкай і ўсяе Русі» М. Стрыйкоўскага пад 1386, калі ў

час міжусобнай барацьбы Д. захапіў Андрэй Полацкі. У 14 ст. пабудаваны *Друйскі замак.* Да канца 15 ст. належала ваеннаслужылым людзям Полацкага замка як абарончы і гандл. пункт на мяжы княства. З 1506 прыватнаўласніцкі горад кн. Масальскіх, з 1611 — Сапегаў. У 1620 горад атрымаў магдэбургскае правы і герб (на блакітным полі віціна з разгорнутым ветразем, вада сярэбраная). З 1793 у складзе Расійскай імперыі, заштатны горад Дзісенскага пав. Мінскай, з 1843 Віленскай губ.

Першыя археал. даследаванні ў канцы 1920-х г. праводзіў краязнавец Я. Альхімовіч, у 1976—86 абследавала Л. У. Дучыц, у 1986—88 В. Я. Зайцава даследавала больш за 400 м² б. паселішча. Культурны пласт таўшч. 1,2—1,5 м, у ямах да 2,4 м. Знойдзены рэчы 10—11 ст. (наканечнік стралы, нож з асіметрычнымі выступамі каля дзяржання, фрагменты ганчарнай керамікі). У ліку матэрыялаў 12—15 ст. ключ ад навяснога замка, касцяны грабеньчык, фрагменты оўруцкага шыфернага праслíца і непаліраванага глінянага посуду. Выяўлены пласт з рэшткамі пажарышча на Усці на пач. 16 ст., знаходкі замкавага побыту: імпартныя паліхромныя і зялёнапаліваныя кафлі, у т. л. паўцыркульная кафля з выявай Маці Боскай з дзіцем, фрагмент кафлі з выявай аднагадовага арла ў геральдычным абрамленні, тулава якога ахоплівае лацінская літара ў люстраным адбітку (аналагічныя знаходкі выяўлены ў Віленскім і Вавельскім каралеўскіх замках), сталовы посуд (кубачкі і куфлі рэдкіх форм, збаны, талеркі з размаляваным арнаментам), фрагмент металічнага наканечніка ножнаў шаблі. Выяўлены рэшткі майстэрні па вырабу кафлі, фрагменты ганчарнага горна, тэракотавых штампаў і кафляў, аздобленых рэльефам горна, тэракотавых штампаў і кафлі, аздобленай рэльефным рознасюжэтным дэкорам, пакрытых зялёнай і рудой палівай, некаторыя размаляваны эмалямі па рэльефе. Археал. даследаванні даюць магчымасць меркаваць, што ў пач. 16 ст. ў Д. існавалі замак і мястэчка, якое паступова стала горадам і разраслося праз р. Друю (Задруя) і Зах. Дзвіну (Прыдруя, цяпер Піедруя ў Латвіі). У 1618 на У ад Д. заснаваны новы цэнтр уладанняў Я. С. Сапегі — Сапежын з ратушай, гасціным дваром, культавымі пабудовамі, умацаваны валам. Далей на У размешчаны замак уладальнікаў, побач з ім — кляштар бернардзінцаў.

*Літ.*: 351, 400, 759. *В. Я. Зайцава.*



Аўтар карты П.Ф.Лысенка

**ДРЫБІН,** група археал. помнікаў на левым беразе р. Проня, на ПдЗ ад в. Дрыбін Горацкага р-на.

С т а я н к а - 1 *каменнага веку.* За 100 м на Пн ад кургана, на першай надпоймавай тэрасе р. Проні. Ад-

крыў і даследаваў у 1985 В. Ф. Капыцін. Знойдзены крамянёвыя аднапляцовачны патоўшчаны нуклеус, канцавыя скрабкі, бакавы разец з рэтушшу, фрагменты пласцін і адшчэпы.

Стаянка-2 *каменнага веку.* За 500 м на Пд ад кургана, на мысе, утвораным берагам ракі і безназоўным ручаём. Памер 30×90 м. Адкрыў у 1985 і даследаваў 14 м² у 1987 Капыцін. У культурным пласце, што залягаў пад слоем дзёрану на глыб. 0,2—0,5 м, знойдзены двухпляцовачныя нуклеусы, адбойнікі, прылады працы, якімі секлі, скрабкі, разцы, пласціны і адшчэпы.

Курган эпохі Кіеўскай Русі. За 1 км на ПдЗ ад вёскі, на ўскраіне хвойніку. Выш. 1,3 м, дыям. 19 м. Насып здзірванелы, у цэнтры кургана 2 ямы дыям. 1 м. Выявіў і абследаваў у 1985 Капыцін. *В. Ф. Капыцін.*

**ДРЫГАВІЧЫ,** адно з племянных аб'яднанняў усх. славян, вядомых па пісьмовых крыніцах і археал. помніках. Назва паходзіць, верагодна, ад слова «дрыгва» (балота). Паводле арехал. даных, Д. займалі тэрыторыю: на У да Дняпра, на Пн да Барысава, Лагойска, Заслаўя, вярхоўяў Нёмана; на Пд мяжа пераходзіла за Прыпяць; на З, на думку У. З. Завітневіча, В. В. Сядова і інш., мяжа праходзіла па Выганашчанскім балоце (на Пн ад Пінска), на думку А. У. Успенскай, Я. І. Цімафеева, К. Мусяновіч — пераходзіла Зах. Буг. Апошняя думка пацвярджаецца матэрыяламі шматгадовых даследаванняў курганных могільнікаў у Сярэднім Пабужжы (Т. М. Каробушкіна). У 6—8 ст. папярэднікамі на Сярэдняй Прыпяці былі слав. плямёны *пражскай культуры.* На Пн ад Прыпяці ў гэты час жылі балцкія плямёны. На тэр. расялення Д. захаваліся археал. помнікі — гарадзішчы, селішчы, курганныя могільнікі з пахавальным абрадам трупаспалення (на Прыпяці, Бярэзіне, правабярэжжы Дняпра, у вярхоўях Случы, Арэсы), з 10 ст.— могільнікі з пахавальным абрадам трупапалажэння на гарызонце або ў падкурганнай яме, часам на попельнай падсыпцы. Зрэдку ў курганах трапляюцца збудаванні ў выглядзе невысокага драўлянага зруба, накрытага дахам. Пахавальны інвентар параўнальна бедны — гліняныя гаршкі, спражкі, крэсівы, сякеры, наканечнікі коп'яў і інш. У жаночых пахаваннях пераважаюць упрыгожанні: шкляныя каляровыя разнастайныя па памерах і форме пацеркі, бронзавыя скроневыя кольцы з заходзячымі канцамі, пярсцёнкі, бранзалеты і інш. Характэрная племянная адзнака — вял. медныя або сярэбраныя пацеркі, аздобленыя напаянымі на іх паверхню дробнымі па памерах сярэбранымі шарыкамі — зерню. Другой этнічнай адзнакай з'яўляюцца скроневыя кольцы-завушніцы з круглага дроту, на якіх замацаваны па 3 металічныя пацеркі невял. памераў.

Д. ўпершыню ўпамінаюцца ў недатаванай частцы «Аповесці мінулых часоў» у сувязі з падзеямі, якія папярэднічаюць 9 ст., сярод усходнеслав. плямён, што расяліліся ва Усх. Еўропе. Д. ўпамінаюцца візантыйскім гісторыкам Канстанцінам Багранародным (948), у стараж.-рус. летапісах (1149). Д. належалі да найб. развітых у сацыяльных адносінах плямён, знаходзіліся на заключнай стадыі распаду родаплемяннога ладу, мелі сваё палітычнае аб'яднанне — «княжанне». Займаліся земляробствам, агародніцтвам, жывёлагадоўляй, паляваннем, рыбалоўствам, збіральніцтвам, а таксама прадзеннем і ткацтвам. Доказам высокага ўзроўню развіцця Д. з'яўляецца ўзнікненне і развіццё гарадоў. На тэр. Д. у 10 ст. вядомы Тураў, у 11 ст.— Брэст, Мінск, Пінск, у 12 ст.— Слуцк, Клецк, Рагачоў, Мазыр, Дарагічын Надбужскі, па археал. матэрыялах — Давыд-Гарадок, у 13 ст.— Камянец, Капыль, Кобрын і інш. Археал. раскопкі гарадоў засведчылі высокі ўзровень развіцця жалезаапрацоўчага, ювелірнага, касцярэзнага, гарбарнага, ганчарнага, дрэваапрацоўчага і інш. рамёстваў. Аб развіцці культуры сведчаць дзейнасць выдатнага пісьменніка,



Металічныя вырабы 10—13 ст. з **Дрысвят:** бронзавая пласцінка-накладка (1), падвеска (2), бронзавае люстэрка (3), фібулы з макападобнымі галоўкамі (4—5), спражкі (6, 17, 21), змееgalовыя бранзалеты (8—11), пласціністыя бранзалеты (13—14, 16), бранзалет з круглага дроту (15), кольцы (7, 12, 19), фібулы-зашпількі (18, 20).

прамоўцы і царкоўнага дзеяча Кірылы Тураўскага, манументальнае будаўніцтва, стварэнне Тураўскага евангелля, знаходкі высокамастацкіх вырабаў з каляровых металаў, каменю, косці і інш. У 2-й пал. 10 ст. тэр. Д. увайшла ў склад Кіеўскай Русі, у канцы 10 ст. на іх землях узнікла Тураўскае княства, у канцы 12 ст. з яго вылучыліся ўдзельныя Пінскае, Дубровіцкае (яшчэ раней Клецкае), верагодна, Нясвіжскае, паўн.-ўсх. частка земляў Д. увайшла ў Полацкае, паўд.-ўсх.— у Кіеўскае княствы.

*Літ.:* 382, 587, 703б, 848, 1052, 1237.

*П. Ф. Лысенка.*




Прасліца з кірылічным надпісам з **Дрысвят.**

**ДРЫСВЯ́ТЫ**, шматслойнае гарадзішча *днепра-дзвінскай культуры* (2—1 ст. да н. э.), эпох Кіеўскай Русі і ВКЛ і селішча 11—13 ст. на зах. частцы вострава «Замак» на воз. Дрысвяты Браслаўскага р-на.

Гарадзішча (плошча каля 1 га) умацавана валам. Абследаваў, шурфаваў і зняў план у гарызанталях у 1955—56 Л. В. Аляксееў, даследаваў у 1970, 1976 і 1980 М. А. Ткачоў. Ускрыта 700 м². Прарэзка вала ў паўд. частцы гарадзішча сведчыць, што першапачаткова ён быў насыпаны з пяску па краі пагорка. Знешні схіл вала, які быў бліжэй да вяршыні, меў пласт з гліны. Пад насыпам вала знойдзена кераміка днепра-дзвінскай культуры. У даславянскі час вал двойчы быў падсыпаны і дасягаў выш. больш за 2 м. У 10—16 ст. ён яшчэ 4 разы падсыпаўся жвірам, пяском і часткова глінай, меў дубовыя сцены, якія неаднойчы гарэлі. Апошняя падсыпка зроблена з культурнага пласта гарадзішча і датуецца керамікай 14—16 ст. Культурны пласт (0,4—1,4 м) стратыграфічна падзяляецца на 2 слаі: верхні, інтэнсіўна чорнага колеру з пераходам у цёмна-шараваты, таўшч. 15—25 см (14—17 ст.), і ніжні, моцна гумусаваны пласт эпохі Кіеўскай Русі (10—13 ст.), таўшч. 0,6—1,0 м. У прывальнай паўн.-ўсх. частцы гарадзішча таўшч. напластаванняў дасягае 2 м. Мацярык уяўляе сабой тлустую гліну чырванавата-жоўтага колеру з украпінамі жвіровых лінзаў. У перадмацерыку і на мацерыку знойдзены нешматлікія абломкі ляпной керамікі днепра-дзвінскай культуры, сляды агнішчаў, рэшткі каменных сякер. Прадметы арганічнага паходжання ў культурным пласце захаваліся дрэнна. Ад пабудоў 10—13 ст. уцалелі печкі-каменкі, падпольныя ямы, дробныя вуглістыя і гліняныя праслойкі, якія дазваляюць прыблізна вызначыць памеры драўляных дамоў (ад 3,8×3,2 м да 4,2×4,2 м). Яны размяшчаліся ўздоўж вала і кучна па ўсёй пляцоўцы гарадзішча. Прасочаны сляды гасп. пабудовы 16 ст., якая стаяла на падмурку з камянёў. Тут жа знойдзены прабоі з вял. жал. кольцамі ад дзвярэй пабудовы ці канавязі.

Кераміка 10—13 ст. прадстаўлена абломкамі гаршкоў, арнаментаваных шматраднымі пазногцевымі ўцісканнямі, частым і дробным рыфленнем, з клеймамі на дншчах у выглядзе ўпісаных канцэнтрычных кругоў і салярных знакаў. Знойдзены накрыўкі, міскі, збаны, рэшткі амфар з Прычарнамор'я. Кераміка 14—17 ст. больш аднастайная (паліваныя і непаліваныя гаршкі, макотры, міскі). Выяўлена невял. колькасць кафлі: тэракотавая і паліваная, паліхромная, гаршковая (16 ст.), карнізная (17 ст.). Сярод металічных прадметаў пераважаюць нажы 12—13 ст. і пазнейшых часоў, ёсць наканечнікі тронкавых і ўтулкавых стрэл 11—16 ст., коп'яў, дроцікаў і суліц, бронзавыя і жал. ключы ад розных тыпаў замкоў і дэталі апошніх, адна- і двухлязовыя крэсівы 11—16 ст., шпоры 11—13 ст.,




Ганчарныя клеймы на посудзе 11—13 ст. з **Дрысвят.**

абломкі стрэмя, цуглі, падковы і ледаходны шып для падкоўвання каня, дэталь пласціністага даспеха 16 ст., шмат цвікоў, скобаў розных памераў, дзвярных кручкоў і інш. жал. вырабаў. Знойдзена гарматнае ядро з белага каменю. Жаночыя ўпрыгожанні прадстаўлены тыпова балцкімі падвескамі і фібуламі з макападобнымі галоўкамі, спражкамі-сактамі, змеегаловымі арнаментаванымі і пласціністымі бранзалетамі 11—13 ст., шклянымі пацеркамі, у т. л. залачонымі бочачкападобнымі біканічнай формы 12 ст., абломкам шклянога бранзалета і інш. Знойдзены каменны крыжык-«карсунчык», 2 крыжы-энкалпіёны 12—13 ст., манетападобная падвеска з выявай св. Юрыя, які забівае змея, кавалкі бурштынусырцу, шмат гліняных (10 ст.) і шыферных (11—13 ст.) прасліц. Пра ювелірную вытворчасць на гарадзішчы сведчаць пінцэт і ювелірныя цісочкі, напільнік-надфіль, кавалкі ліставой медзі. Прадукцыя кастарэзаў прадстаўлена тронкамі нажоў, пласцінкай-накладкай ад лука, мініяцюрнай арнаментаванай лыжачкай для прычасця, праколкамі, аднабаковымі арнаментаванымі (11 ст.) і двухбаковымі (12—14 ст.) грабянямі, канькамі, ігральнымі касцямі і інш. Выяўлены бандарны інструмент — лыжкарэз, стамескі, а таксама зубілы, абломкі дробназубчастай пілкі, сярпоў, кос, у т. л. касы-гарбушы, манеты-«грошы» ВКЛ (16 ст.). Паводле зробленага В. В. Шчагловай аналізу астэалагічнага матэрыялу з раскопак гарадзішча, на долю свойскай буйной і дробнай рагатай жывёлы, свіней, коней, сабак прыпадае 67,3—69,8 % усіх касцей. Сярод дзікай жывёлы ёсць косці зубра, лася, аленя, касулі, дзіка, мядзведзя, ваўка, бабра, зайца, лісы. Знаходкі рыбацкіх гліняных грузілаў ад сетак, лускі і касцей рыбы сведчаць пра актыўнае рыбалоўства. У 14—17 ст. на гарадзішчы існаваў *Дрысвяцкі замак.*

С е л і ш ч а ўшчыльную прымыкае да гарадзішча з Пн і ПнУ. Даследавалі ў 1976 Ткачоў і Л. У. Дучыц, у 1991 Г. М. Семянчук. Ускрыта 250 м$^2$. Стратыграфія культурных напластаванняў гарадзішча і селішча аналагічная. Культурны пласт селішча 0,4—1,2 м.

Знойдзены ляпная кераміка апошняй чвэрці 1-га тыс. н. э. і 10—18 ст. (сярод яе вылучаюцца донцы гаршкоў з клеймамі «кола», «крыж у коле», «сонейка» і інш.), фрагмент амфары з чырвонай гліны, шыферныя і гліняныя прасліцы, тачыльныя брускі, каменная сякера, фрагмент тыгля. Шмат вырабаў з жалеза (нажы, ключы, цвікі, цуглі, конская падкова, рыбалоўныя кручкі, 3 дзіды, піка, дроцік, 4 тронкавыя і 1 утулкавы наканечнікі стрэл), бронзы (бранзалеты, лірападобная спражка, фібула з макападобнымі галоўкамі, паўтараабаротны пярсцёнак), косці і рога (3 грабеньчыкі, праколкі, гузік, многа касцей са слядамі апрацоўкі). Унікальная знаходка — шыфернае фіялетавае авальнае прасліца 11—12 ст. з кірылічным надпісам. Сярод астэалаг. матэрыялу пераважаюць (74,9 %) косці свойскай жывёлы. Выяўлена 6 развалаў печак-каменак. Матэрыялы, звязаныя з мястэчкам Д. 15—18 ст., прадстаўлены кафляй (паліхромная, з зялёнай палівай і безе, з дэкаратыўным і геаметрычным арнаментам, гаршковая), ганчарнай керамікай. Жыццё на селішчы існавала ў 9—17 ст. Найб. інтэнсіўна яно праходзіла ў 11—13 ст., калі селішча з'ўлялася пасадам умацаванага *Дрысвяцкага замка*, размешчанага на гарадзішчы.

*М. А. Ткачоў, Г. М. Семянчук.*





Крыжы-энкалпіёны 12—13 ст. з гарадзішча **Дрысвяты** (знешні і адваротны бакі).

**ДРЫСВЯЦКІ ЗАМАК.** Існаваў у 14—17 ст. на востраве Замак на воз. Дрысвяты ў Браслаўскім р-не. Замак узведзены на гарадзішчы *Дрысвяты* днепра-дзвінскай культуры і эпохі Кіеўскай Русі 10—13 ст. Пляцоўка замка (75×50 м) мае авальную форму з крыху звужанай паўд. часткай, узвышаецца на 6—7 м над паверхняй возера і абкружана кальцавым валам. З паўн. і ўсх. бакоў поля выш. яго каля 5 м, з боку возера — 1—1,5 м. Ядро вала насыпана з пяску са слоем глінянага ўзмацнення яшчэ на рубяжы н. э. На працягу 10—16 ст. вал 4 разы падсыпаўся з выбрукоўкай унутранага схілу камянямі. У канцы 14 — пач. 15 ст. на востраве стаяў «двор Дрысвяты» вял. кн. ВКЛ Вітаўта, пазней — караля Аляксандра.

У пісьмовых крыніцах замак згадваецца ў 1514, ім з 1542 валодаў маршалак ВКЛ Ян Юр'евіч Глябовіч. Дакументы 1557, 1561, часоў Лівонскай вайны 1558—83 і тагачасныя сведкі адзначалі ў Д. з. значны гарнізон. Захавалася апісанне замка за 1662: «на гары над возерам Дрысвяцкім ёсць 3 вежы без дахаў, апалыя, згніўшыя, ёсць трошкі сцен з боку фальварка, але і тыя трухлявыя і разбураюцца». З агнястрэльнай зброі ўпамінаюцца 2 гакаўніцы і 1 штурмачок. Пад аховай замка на востраве стаялі двор і мястэчка з рынкам, 3 вуліцамі, але без абарончых збудаванняў. Сувязь з берагам ажыццяўлялася па 2 мастах. У 2-й пал. 17 ст. Д. з. перастаў існаваць, а жыхары паселішча пасля пажару перабраліся з вострава на ўсх. бераг возера.

*Літ.*: 15, 46, 1433. *М. А. Ткачоў.*

**ДРЫЯС,** гл. *Позналедавікоўе.*

**ДУБАЙ,** група курганных могільнікаў *мілаградскай культуры* (6—5 ст. да н. э. каля в. Дубай Столінскага р-на.

Першая група курганоў (60 насыпаў). За 1 км на Пн ад вёскі, на пясчаным узвышшы сярод забалочаных лугоў, ва ўрочышчы Задубенне. Курганы паўсферычныя, расплывістыя, выш. 0,2—1,5 м, дыям. 2—22 м. У 1955—56 Ю. В. Кухарэнка даследаваў 13 курганоў. Насыпы двухслаёвыя: гліна або суглінак знізу, пясок зверху. У большасці курганоў пахаванні на гарызонце, у 3 — у невялікіх (глыб. 0,3—0,8 м) прамавугольных (0,8—2×2—4 м) падкурганных ямах. Курганы большай групы падзяляюцца на пахаванні без дапаможных канструкцыйных элементаў (3) або з папярэднім абпальваннем пляцоўкі (1), на круглай або авальнай падсыпцы дыям. 2—3 м (4), у драўляных зрубах на падсыпцы (2). У пахаваннях на гарызонце нябожчык арыентаваны галавой на ПдУ, пакладзены на падсыпку з рачнога пяску, у некаторых з папярэднім абпалам пляцоўкі або з падсыпкай з попелу і драўнянага вугалю пад пясок. У ямах нябожчык арыентаваны ў напрамку ПнЗ — ПдУ, у зрубах — ПнУ — ПдЗ. Адно зрубнае пахаванне складалася са слупоў дыям. 0,25—0,4 м, убітых па вуглах прамавугольніка 4×3 м на глыб. 0,2 м, вакол якіх па контуры пакладзены абпаленыя бярвёны. У зрубе 3 пахаванні. Знойдзены гліняныя яйцападобныя і 2 грушападобныя ляпныя гаршкі (у большасці курганоў па адным, у некаторых па 2—3 гаршкі). У 5 насыпах выяўлены жал. наканечнікі коп'яў, у астатніх — залатая цвікападобная завушніца, жал. нож.

Другая група курганоў (20 насыпаў). За 1 км на ПдЗ ад вёскі, ва ўрочышчы Вавулін.



С. А. Дубінскі.



БЕЛАРУСКАЯ АКАДЭМІЯ НАВУК | WEISSRUSSISCHE AKADEMIE DER WISSENSCHAFTEN

С. А. ДУБІНСКІ

БІБЛІОГРАФІЯ ПА АРХЕОЛЁГІІ БЕЛАРУСІ І СУМЕЖНЫХ КРАІН

S. A. DUBINSKI

BIBLIOGRAPHIE DER ARCHÄOLOGIE WEISSRUSSLANDS UND DER ANGRENZENDEN LÄNDER

МЕНСК—1933—MINSK

Вокладка кнігі **С. А. Дубінскага.**

Трэцяя група курганоў (больш за 20 насыпаў). За 3 км на У ад вёскі. У 1981 даследаваў 1 курган (выш. 1,5 м, дыям. 12 м) Г. М. Залашка. Знойдзены невял. гаршчок без прыкмет пахавання.

*Літ.*: 405, 637. *А. А. Егарэйчанка.*

**ДУБІНСКІ** Сяргей Антонавіч [13(25).10.1884, в. Наройкі Бельскага пав. Гродзенскай губ.—27.8.1937], беларускі археолаг. Скончыў Пецярбургскі ун-т (1914). Працаваў настаўнікам. З 1925 чл. гіст.-археал. камісіі, з 1928 навук. супрацоўнік Інбелкульта, з 1931 у Ін-це гісторыі АН БССР, з 1933 у Акадэміі гісторыі матэрыяльнай культуры (Ленінград). Даследаваў у асноўным помнікі ранняга жал. веку і эпохі сярэднявечча. Праводзіў раскопкі і вывучаў курганныя старажытнасці ў Бельскім пав., гарадзішчы і могільнікі Бабруйшчыны, Міншчыны, Мазыршчыны, Магілёўшчыны і Віцебшчыны. У 1926—28 вывучаў гарадзішчы *Банцараўшчына*, у 1928— *Чаркасава*, аднёс іх да дапаславянскага часу. У 1927 склаў археал. карту Магілёўскай вобл. (не захавалася). Склаў і выдаў першую «Бібліяграфію па археалогіі Беларусі і сумежных краін» (1933), у якой названы працы пра дакласавае грамадства, ранні феадалізм, нумізматыку, сфрагістыку, стараж. архітэктуру, абарончыя збудаванні. Незаконна рэпрэсіраваны ў 1937, рэабілітаваны ў 1956.

*Тв.*: Доследы культур жалезнага перыяду па Віцебшчыне, Магілёўшчыне і Міншчыне // Запіскі аддзела гуманітарных навук Ін-та беларускай культуры. Мн., 1928. Кн. 5. Працы кафедры археалогіі, т. 1; Чаркасоўскае гарадзішча пад Оршай; Гарадзішча каля в. Германоў Аршанскай акругі; Доследы культур жалезнага перыяду на БССР у 1929 г. // Запіскі аддзела гуманітарных навук БАН. Мн., 1930. Кн. 11. Працы археалагічнай камісіі, т. 2; Раскопкі Банцараўскага гарадзішча каля Менску ў 1926 г. // Гістарычна-археалагічны зборнік. Мн., 1927. № 1.

*Літ.*: 497а. *Т. М. Каробушкіна.*

**ДУБІЧАЙ,** стаянка эпохі ранняга неаліту (4-е тысячагоддзе да н. э.) каля в. Дубічай Варэнскага р-на Літвы. На беразе былога воз. Пеляса. Даследавала ў 1962 Р. К. Рыманцене.

У ніжнім гарызонце культурнага пласта знойдзены архаічная ляпная кераміка з раслліннымі дамешкамі ў цесце, арнаментаваная пераважна наколамі і грабеньчатымі адбіткамі, крамянёвыя прылады працы з мезалітычнымі рысамі — свідэройдныя наканечнікі стрэл, канцавыя скрабкі, рэтушаваныя пласцінкі, разцы. Параўнаўчы аналіз матэрыялаў дазволіў вылучыць на Панямонні ранні (дубічайскі) этап нёманскай неалітычнай культуры.

*Літ.*: 976. *М. М. Чарняўскі.*

**ДУБКІ,** курганны могільнік 11—12 ст. каля былой в. Дубкі Аршанскага р-на (цяпер у межах г. Орша). Гл. ў арт. *Аршанскія курганныя могільнікі.*

**ДУБКІ,** стаянка эпохі неаліту каля в. Дубкі Браслаўскага р-на. За 200 м на ПдУ ад вёскі, на першай тэрасе паўн.-ўсх. берага воз. Дрывяты. Выявілі ў 1964 У. Дз. Будзько, У. Ф. Ісаенка, І. М. Ціханенкаў, М. М. Чарняўскі. У 1988 раскапаў 98 м² У. П. Ксяндзоў. Культурны пласт 0,3 м.

Знойдзены прылады працы з шэрага крэйдавага каменю (тронкавыя наканечнікі стрэл, праколкі, скрабкі, рэтушоры, укладышы, нуклеусы, пласціны і адшчэпы), фрагменты ляпной керамікі з дамешкамі арганікі ў гліне (паверхня арнаментавана адбіткамі ямак і штампа), фрагменты пасудзін жал. веку. Адносіцца да нарвенскай неалітычнай культуры.

**ДУБО́ВЫ ЛОГ,** група археал. помнікаў каменнага і бронзавага вякоў каля в. Дубовы Лог Добрушскага р-на.

Паселішча-1 ранняга этапу *верхнедняпроўскай культуры.* За 2,5 км на Пд ад вёскі, на пясчаным узвышшы правага берага р. Іпуць, ва ўрочышчы Мішукова Грыва. Памер 150×15 м. Выявіла ў 1979 і даследавала ў 1980—83 А. Г. Калечыц, раскапана 168 м². Культурны пласт да 0,35 м. Знойдзены рэшткі 2 жытлаў: адно з іх уяўляе сабой круглую (дыям. 2,2 м) чашападобную ў профілі яму з няроўнай падлогай глыб. 0,4 м ад стараж. паверхні са слядамі агнішча; другое (ускрыта часткова) — круглая яма дыям. 3 м, глыб. 0,6 м. Каля першага жытла выяўлена адкрытае агнішча дыям. 1,2 м і вогнішча дыям. 0,8 м.

Знойдзена каля 8 тыс. апрацаваных крамянёў, 279 з іх маюць паўторную апрацоўку, 480 фрагментаў ляпнога посуду. Сярод прылад працы пераважаюць мысавыя, канцавыя, клювападобныя скрабкі з адшчэпаў і вельмі рэдка з пласцін, грубыя скрэблы і скоблі, прылады, якімі секлі, маленькія і вялл. сякеры, у якасці якіх часта выкарыстоўвалі спрацаваныя да канца нуклеусы, а таксама сякеры з перахватам, прылады тыпу «пік», разцы, вастрыі, свярдзёлкі, трапецыі, ромбападобныя і тронкавыя асіметрычныя пласціністыя наканечнікі стрэл, фрагменты 2 наканечнікаў коп'яў. Кераміка — таўстасценныя вастрадонныя пасудзіны, насычаныя дамешкамі раслінных рэшткаў у гліне. Большая частка іх неарнаментаваная. Нешматлікія фрагменты арнаментаваны адбіткамі грэбеня і ямкавымі наколамі. Трапляюцца матэрыялы эпохі развітога неаліту і *сярэднедняпроўскай культуры* ранняга бронзавага веку.

Паселішча-2 ранняга этапу верхнедняпроўскай культуры. За 2,6 км на ПдЗ ад вёскі, на ўзвышшы сярод поймы правага берага р. Іпуць, ва ўрочышчы Фядоткіна Грыва. Памер 200×30 м. Выявіла ў 1979 і даследавала ў 1983 Калечыц, раскапана 424 м². Культурны пласт да 0,5 м. Знойдзена больш за 10 тыс. крамянёвых вырабаў, 2,3 % з іх маюць паўторную апрацоўку, якая праводзілася на паселішчы.

Сярод знаходак шмат адна- і шматпляцовачных нуклеусаў, скрабкоў на адшчэпах і пласцінах, трапляюцца невял. сякеры, грубыя цёслы, свярдзёлкі, разцы, вастрыі на пласцінах і адшчэпах, наканечнікі стрэл, зробленыя на пласцінах. Посуд захаваўся вельмі дрэнна, на асобных фрагментах арнаменту ці нагогул няма, ці ён складаецца з адбіткаў буйнога грэбеня, ямкавых адбіткаў, кропкавых наколаў, сеткі і інш.

Паселішча-3 эпохі неаліту і бронзавага веку. За 3 км на ПдЗ ад вёскі, на ўзвышшы правага берага р. Іпуць, ва ўрочышчы Цітаў Бугор. Выявіла ў 1978 і даследавала ў 1981—83 Калечыц, раскапана 612 м². Культурны пласт да 0,6 м. Знойдзены 7735 крамянёвых вырабаў і 4144 фрагменты посуду. Выяўлены рэшткі агнішча адкрытага тыпу ў яме дыям. 1 м, глыб. 0,6 м.

Сярод знаходак каля 400 нуклеусаў, шмат адшчэпаў, пласцін і інш. адходаў вытворчасці, што сведчыць пра апрацоўку крэменю на паселішчы. Сярод прылад працы пераважаюць скрабкі на круглых адшчэпах, цёслы, сякеры, долаты, ёсць прылады тыпу «пік», астатніх відаў прылад працы няшмат. Блізкасць да помнікаў *днепра-данецкай культуры* істотна паўплывала на арнаментацыю пасудзін: амаль 7 % фрагментаў керамікі ўпрыгожаны наколамі, нанесенымі спосабам «адступаючай лапатачкі». Астатнія знаходкі ўпрыгожаны адбіткамі грэбеня, рознымі ямкавымі ўцісканнямі, адбіткамі лапчастага штампа, нарэзкамі, насечкамі, кропкавымі наколамі і інш. Значная частка керамікі неарнаментаваная. Паводле саставу гліны частка знаходак адносіцца да ранняга этапу верхнедняпроўскай культуры.

Паселішча-4 эпохі неаліту і бронзавага веку. На пясчаным узвышшы правага берага р. Іпуць, ва ўрочышчы Паповічава Грыва. Выявіла і даследавала ў 1978 Калечыц. Культурны пласт 0,1 м выяўлены пад невял. пластом торфу.

Знойдзены прылады працы з крэменю, адходы вытворчасці, фрагменты ляпнога посуду, неарнаментаванага або ўпрыгожанага адбіткамі грэбеня. Цікавая знаходка — крамянёвая сякера, зашліфаваная ў рабочай частцы. Сярод знаходак матэрыялы верхнедняпроўскай і сярэднедняпроўскай культур.

Паселішча-5 верхнедняпроўскай культуры. За 3 км на ПдЗ ад вёскі, ва ўрочышчы Падлужжа, на задзернаванай дзюне памерам 100×15 м, размешчанай каля старыцы р. Іпуць, на правым яе беразе. Выявіла ў 1979 і даследавала ў 1979 і 1981 Калечыц, раскапана 192 м². Культурны пласт 0,5 м.

Знойдзены 8086 крамянёвых вырабаў і 4339 фрагментаў ляпных пасудзін, выяўлены рэшткі 2 агнішчаў і месца абпальвання глінянага посуду ў выглядзе вялізнай ямы даўж. 8, шыр. 2, глыб. 0,5 м. Сярод знаходак шмат- і аднапляцовачныя нуклеусы, пласціны, у т. л. з рэтушшу, адшчэпы і інш. адходы вытворчасці. Сярод прылад працы — скрабкі, зробленыя з адшчэпаў, скрэблы, сякеры, цёслы, долаты, прылады тыпу «пік», вуглавыя і нуклеусападобныя разцы, міндалепадобныя вырабы з двухбаковай апрацоўкай паверхні, нажы, ромбападобныя, трохвугольныя, лістападобныя, пласціністыя наканечнікі стрэл, скоблі, свярдзёлкі, вастрыі, некалькі сярпоў і інш. Кераміка — вастрадонныя, праматасценныя, ледзь пашыраныя ўверсе гаршкі. Венчыкі пасудзін прамыя або злёгку адагнутыя звонку, зрэдку па краі зроблены несапраўдны валік. Неалітычны посуд упрыгожаны адбіткамі грабеньчатага штампа, ямкавымі ўцісканнямі, лапчастымі адбіткамі. Частка фрагментаў неарнаментаваная. Частка керамікі належыць сярэднедняпроўскай, сосніцкай і шматвалікавай керамікі культурам.

За 2 км на ПдЗ ад вёскі, ва ўрочышчы Высокая Грыва, ва ўрочышчы Яблынчына Грыва і на краі тарфянога масіву выяўлены 3 паселішчы каменнага веку.

*Літ.*: 479. *А. Г. Калечыц.*

**ДУ́БРАЎКІ,** археал. помнікі каля в. Дубраўкі Гарадоцкага р-на.

Курганны могільнік. За 2 км на З ад вёскі, каля воз. Беленькае, побач з сучаснымі могілкамі. Захавалася 20 курганоў выш. 0,5 м, дыям. 5—9 м. Некаторыя, напэўна, тыпу *жальнікаў.* У 1901 даследаваў 3 курганы Л. Ю. Лазарэвіч-Шапялевіч, у 1972 абследаваў Г. В. Штыхаў. Пахавальныя абрады — трупапалажэнне (2 курганы) і трупаспаленне. У адным пахаванні знойдзены нож і кольца, у другім — шкілет і ляпны гаршчок. Паводле Лазарэвіча-Шапялевіча, курганы належалі ўсх. славянам.

Каменныя крыжы. За 2 км ад вёскі, на могілках 16—19 ст., каля курганнага могільніка. Захавалася 5 крыжоў на магілах, абкладзеных камянямі. Выш. крыжоў 0,5—1,2 м. Некаторыя датуюцца 14—17 ст.

*Літ.*: 645. *Г. В. Штыхаў.*

**ДУБРО́ВА,** этнаграфічна-археал. помнік *«Дзявочая Гара»* на тэр. Валожынскага р-на, за 500 м на З ад в. Дуброва Маладзечанскага р-на.

Звесткі пра «Дзявочую Гару» ўпершыню апублікаваны ў «Геаграфічным слоўніку Каралеўства Польскага і іншых славянскіх краін» (т. 2, 1881), дзе прыводзіцца мясц. паданне, паводле якога на гары закапана жывая дзяўчына і разам з ёй пахаваны 2 хлопцы, якія загінулі ў час спаборніцтва стаць яе мужам. Там жа ляжаў вялізны камень, дзе нібыта сядзела дзяўчына ў час спаборніцтва. Абследаваў і правёў раскопкі ў 1987—90 Э. М. Зайкоўскі. «Дзявочая Гара» — адзін з самых высокіх пунктаў у гэтай мясцовасці — знаходзіцца паблізу водападзелу Зах. Бярэзіны і Свіслачы, амаль уся зарасла лесам. У найб. высокай паўн.-ўсх. частцы размешчана больш за 20 курганоў (выш. 0,5—1,5 м, дыям. 6—12 м) і вял. яма (магчыма, асталася ад каменя, зґаданага ў паданні). 8 курганоў раскапаны, з іх 6 у асн. групе і 2 у

групе з 3—4 курганоў каля зах. краю пляцоўкі. Два большыя курганы складзены з камянёў, перасыпаных зямлёй, астатнія насыпаны з зямлі і ўнізе абкладзены вянком з камянёў. Пахаванні размешчаны ў асн. у падкурганных ямах, арыентаваны галавой на З (з некаторымі адхіленнямі). У большасці курганоў выяўлены шкілеты (а ў адным кургане і чэрап дзіцяці). Сярод знаходак сярэбранае скроневае кольца, канцы якога заходзяць адзін за адзін, абломкі ганчарнага посуду, пярсцёнак



Адзін з раскапаных курганоў «Дзявочая Гара» каля в. **Дуброва** Маладзечанскага р-на.

і шкляныя пазалочаныя пацеркі 2-й пал. 11 ст. Частка магіл без інвентару. У зах. групе ў 2 раскапаных курганах косці шкілета ляжалі ў парушаным парадку. У самым высокім кургане асн. групы знойдзены шкілет мужчыны, пахавальны інвентар не выяўлены. Калі лічыць «Дзявочую Гару» сімвалам культу язычніцкай багіні кахання і ўрадлівасці, а большасць курганоў — рытуальнымі пахаваннямі жрыц, то можна згадаць апісанне стараж.-рымскім аўтарам Тацытам святога гаю багіні плоднасці ў племені лугіяў. Тацыт прыводзіў звесткі, што той асяродак культу (святы гай) абслугоўваў жрэц у жаночым адзенні, жанчыны былі жрыцамі. Штосьці падобнае, відаць, было і на «Дзявочай Гары». Да нядаўняга часу на гары святкавалася купалле, што можа быць звязана з традыцыяй выкарыстання «Дзявочай Гары» ў язычніцкія часы. У ходзе шурфоўкі ў інш. месцах гары культурны пласт не выяўлены.

*Літ.*: 37, 58, 674, 904. *Э. М. Зайкоўскі.*

**ДУБРО́ВЕНСКІ ЗА́МАК.** Існаваў у 16—18 ст. у г. *Дуброўна*, каля сутокаў рэк Дуброўна і Дняпро. Займаў мысавую частку левага берага Дняпра. Меў прамавугольную арыентаваную па лініі У — З форму (каля 125×45 м). Пляцоўка замчышча была абкружана земляным валам (у наш час ссунуты на схілы) і ўзвышалася над паверхняй вады на 8—8,5 м. З пункта гледжання абароны Д. з. меў вельмі зручнае месцазнаходжанне: з Пн яго прыкрывалі воды шырокага і глыбокага Дняпра, з Пд і З — воды Дуброўны з прадуманай сістэмай запруд. Глыбокі роў і нізіна аддзялялі замак ад «места» (горада) з яго складаным рэльефам. Да замка вёў адзіны шлях па вузкім насыпедамбе. Вясной абарончы роў з У запаўняўся вадой, і Д. з. ператвараўся ў востраў сярод вірлівай вады. У 16—18 ст. замак падзяляўся на 2 часткі: уласна замак (90×45 м) і падзамак (35×45 м, быў размешчаны на 1 м ніжэй за замкавы дзядзінец). Паміж імі ішла раздзяляльная сцяна з уязной брамай. У 1393 мясц. ваколіцы адзначаны ў дароўнай грамаце кн. Дзмітрыя Семяновіча як «земля пустая Дубровенская».

Паводле археал. матэрыялаў, паселішча ў вусці Дуброўны ўзнікла на мяжы 15—16 ст. У пач. 16 ст. Дуброўна згадваецца ў дакументах у сувязі з ваен. дзеяннямі паміж Маскоўскай дзяржавай і ВКЛ. Напэўна, умацаванні «горада» таго часу былі слабыя. Нямецкі дыпламат і падарожнік З. Герберштэйн, які ў 1517 праязджаў праз Дуброўну, зафіксаваў і нанёс на сваю «Карту Московии» выявы Д. з. ў выглядзе 2-яруснай вежы. У 1-й чвэрці 16 ст. горадам і замкам валодаў кн. Юрый Івановіч Ільініч. З 1570 Д. з. належаў кн. Глябовічам, у 17—18 ст.— Сапегам. У 1535 і 1562 дубровенскія ўмацаванні спальвалі войскі царскіх ваявод, аднак у сувязі з прыгранічным становішчам і размяшчэннем на важнай дарозе Смаленск — Масква іх хутка аднаўлялі. У 1580 горад зноў занялі рус. войскі, аднак умацаванні яго, відаць, не пацярпелі. Добры стан умацаванняў адзначаў пасол аўстрыйскага імператара Мікалай Варкач, які пабываў тут у жніўні 1593: «Дуброўна — горад і ў гэтым месцы апошні пагранічны замак супроць масквіцян. Горад ляжыць на Дняпры, а па другі бок замка працякае рака Дуброўніца. Гэты замак шырокі ў акружнасці, толькі ўвесь драўляны». Вядомы «Інвентар Дубровенскага замка, цэйхгауза і шпіхлераў і ўсяго, што ў гэтым замку выяўлена», складзены 28.5.1545 рэвізорамі Андрыянам Парэнбакам і Якубам Гаецкім. Як сведчыць дакумент, на шляху ў замак стаяў умацаваны «прыгародак» — падзамак, куды траплялі праз «новарэстаўраваную і пакрытую» дахам Старую браму. Падзамак быў абнесены астрогам і акрамя праезнай варотнай меў яшчэ 3 новыя вежы. Падрабязнае апісанне кожнай з іх у інвентары адсутнічае. Можна дапусціць, што яны былі не менш за 2 ярусы вышынёй. У двары падзамка размяшчалася некалькі жылых і гасп. пабудоў, кожная з якіх аддзялялася ад суседняй агароджаю з часаных слупоў. Асобна стаяў цэйхгауз. На тэр. ўласна замка можна было трапіць праз спец. праезд. Па перыметры Д. з. раней стаялі сцены-гародні, а з найб. небяспечнага боку ад р. Дуброўна — 2 вежы. Адна з іх, «башта рагавая», знаходзілася над Дняпром, другая — за домам гараднічага. На час складання інвентара замест гародняў замак меў сцены ў выглядзе «астрога». Была яшчэ адна адзіночная «вежа высокая, старая» каля ўезда ў замак. Шлях у Д. з. праходзіў па пад'ёмным мосце, які падымаўся жал. ланцугамі. У цэйхгаузе было 18 гармат, у т. л. 4 серпянціны і 3 імянныя бронзавыя гарматы з надпісамі «Каштелян Минский, подскарбий ВКЛ», «Юркги Тышкевич», 5 шмыгаўніц, 5 «кіёў простых жалезных», 6 «кіёў, падобных на вузкія марціры», 64 гакаўніцы, 68 пяхотных мушкетаў, 37 ручніц, а таксама 39 вял. і цяжкіх мушкетаў — «кабыл», з якіх стралялі са спец. падставак — «форкетов». Усяго ў цэйхгаузе Д. з. знаходзілася 242 адзінкі агнястрэльнай зброі. Паводле інвентара, да іх было 11 бронзавых 2-часткавых форм для адліўкі вял. і малых ядраў і куль, 14 жал. і 4 каменныя формы, значны запас боепрыпасаў: 56 коп (3360 шт.) рознай велічыні ядраў, 19 фунтаў куль, 122 каменныя ядры і ядры з волава і аблітыя волавам, значная колькасць шроту — «глоту», 6 з чвэрткай пудоў мушкетнага і 15 з лішкам пудоў гарматнага пораху, больш за 41 пуд салетры. 24 парахавыя ступы і 180 таўкачыкаў да іх, шмат парахаўніц, патранташаў. З халоднай зброі было 4 старасвецкія шышакі, 229 пяхотных і 5 казацкіх шабель, аздобленых срэбрам, 16 коп'яў, 113 сякерак, 179 бердышоў без абухоў, «набивных серебром», і 17 з абухамі. Сярод абмундзіравання гарнізонных гайдукоў у цэйхгаузе мелася «жупаноў белых гайдуцкіх 26, жупаноў чырвоных 170, 7 зялёных, лісою падбітых, 181 блакітная дэлія, падшытая белым «кіром». 22 шапкі-катанкі белыя, 200 чорных ша-

пак-макрак». Называюцца прапарцы на коп'ях, 11 сцягоў-харугваў, у т. л. харугвы гараджан і сельскіх жыхароў, якія ў абавязковым парадку ўдзельнічалі ў абароне замка. Былі барабаны — «бубны», сігнальныя трубы і многае інш. Запас хлеба захоўваўся ў 10 свірнах. У перыяд вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 Дуброўна і замак моцна пацярпелі. Дыпламат Б. Танер, які ў верасні 1678 праязджаў праз Дуброўну, пісаў, што горад паступова прыходзіў у сябе пасля вайны. У канцы 17 ст. Дуброўна пераходзіць ад Глябовічаў да гетмана польнага ВКЛ і віленскага ваяводы Казіміра Сапегі. Паколькі ў час Паўн. вайны 1700—21 Сапегі былі на баку шведаў, Дуброўну разам з замкам занялі і спалілі калмыкі спец. атрада рус. капітана Салаўёва. Некаторы час горадам і навакольнымі вёскамі валодаў паплечнік Пятра I кн. А. Д. Меншыкаў, пасля Паўн. вайны — зноў Сапегі. У 1712 у Дуброўне замка не было. Тут стаяў толькі «двор», загароджаны новым дубовым штыкетнікам і часткова папраўлены старым. На момант складання інвентара была яшчэ нясконачаная і ненакрытая ўязная брама. Пляцоўку «двара» займалі гасп. і жылыя пабудовы. У 1730-я г. замак быў адноўлены і праіснаваў да 1772.

*Літ.*: 17, 441, 836. *М. А. Ткачоў.*

**ДУБРО́ЎНА,** горад, цэнтр Дубровенскага р-на, на р. Днепр, пры ўпадзенні ў яго р. Дубровенкі і р. Свінкі. За 92 км на ПдУ ад Віцебска, 8 км ад чыг. ст. Асінаўка на лініі Орша — Смаленск, аўтадарогамі злучаны з Оршай, Горкамі. Размешчана на гарыстай мясцовасці, узвышшы чаргуюцца з ярамі і поймамі рэк.

За 100 м на У ад упадзення р. Дубровенка ў Дняпро, на левым беразе Дняпра, на ўзгорку знаходзіцца стараж. гарадзішча Д. Пляцоўка памерам 120×40 м, узвышаецца над поймай на 5—8 м. З ПдУ да пляцоўкі прымыкае насып, на якім была дарога і ўезд на гарадзішча. Вядома з 1873. Абследавалі ў 1930 І. А. Сербаў, у 1972 У. Ф. Ісаенка. У пач. 1980-х г. на гарадзішчы пабудаваны 2 корпусы помпавай станцыі аэрацыі. У 1989 праведзена шурфоўка пляцоўкі і паўн. схілу гарадзішча. Выяўлены керамічны посуд і кафля 16—17 ст. На беразе Дняпра сабраны пад'ёмны матэрыял таго ж часу.

Д. вядома з пач. 16 ст. як горад Аршанскага пав. Віцебскага ваяводства ВКЛ. У 1-й пал. 16 ст. велікакняжацкае ўладанне. З сярэдзіны 16 ст. належала бел. магнацкаму роду Глябовічаў, з 1669 — Сапегам. Д. неаднаразова займалі рус. войскі. У 1698 горад спустошаны атрадамі літ.-бел. шляхты, якая вяла барацьбу супраць засілля Сапегаў у ВКЛ. У Паўн. вайну 1700—21 у 1708 Д. займалі шведскія і рус. войскі, у 1711—19 знаходзіўся ў закладзе ў рус. вяльможы А. Д. Меншыкава, потым вернуты Сапегам. У 1750 тут засн. суконная мануфактура. У 1772 разам з усх. часткай Беларусі ўвайшоў у склад Расійскай імперыі. Праз Д. праходзіў гандл. шлях у Масковію. Захаваліся мураваны будынак кляштара бернардзінцаў (1809), узведзены на месцы драўлянага кляштара 1630, і Пакроўская царква (пач. 19 ст.). У 1645 упамінаюцца Верхні і Ніжні замкі (гл. *Дубровенскі замак*).

*Літ.*: 324, 1046, 1080. *П. А. Русаў.*

**ДУБЫ,** стаянка *нёманскай культуры* каля в. Дубы Пінскага р-на. За 2 км на ПнУ ад вёскі, на ўзвышэнні (3—5 м) у пойме рэк Бобрык і Вісліца. Рассечана 15-метровым гідрамеліярацыйным каналам. У сценцы канала выяўлена паўзямлянкавае жытло даўж. 3,7 м. Выявіў у 1967 і даследаваў у 1988 У. Ф. Ісаенка. Культурны пласт да 1 м. Ускрыта 120 м$^2$.

Сярод знаходак больш за 500 крамянёвых прылад працы (наканечнікі стрэл, праколкі, вастрыі, нажы, скрабкі і скоблі, сякеры, цёслы, а таксама каменныя сякеры, сярпы, цёрачнікі), фрагменты вастрадонных пасудзін. Часткова захаваўся касцявы матэрыял. Датуецца 5—3-м тысячагоддзямі да н. э.

*У. Ф. Ісаенка.*



Да арт. **Дубровенскі замак.** Рэшткі замчышча.



Гліняны гаршчок 10 ст. з курганнага могільніка **Дудаўка.**

**ДУ́ДАЎКА,** курганны могільнік каля в. Дудаўка Мінскага р-на. За 500 м на У ад вёскі, на ўзвышшы левага берага Пцічы. Было 7 паўсферычных круглаватых у плане насыпаў выш. 1—2,2 м, дыям. 7—10 м; адзін малы курган выш. 0,4 м, дыям. 3 м. Даследаваў 5 курганоў у 1979 В. А. Карпека. Пахавальны абрад – трупапалажэнне галавой на З (у 3 насыпах). Знойдзены сярэбраны пярсцёнак з разамкнутымі канцамі, жал. абручы, дужка ад драўлянага вядра, 2 жал. сякеры, нож, ганчарны гаршчок з пакатымі плечукамі і коса зрэзаным краем венчыка, фрагменты гаршкоў з кляймом у выглядзе крыжа. Малы курган быў пусты. У насыпах знойдзены кавалкі ляпной керамікі 3-й чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. Датуецца канцом 10 — пач. 11 ст. Верагодна, недалёка ад могільніка існавала селішча.

**ДУ́ДКІ,** селішча позняга сярэдневечча каля в. Дудкі Стаўбцоўскага р-на. За 400 м на ПдУ ад вёскі, ва ўрочышчы Отмыт. Пл. 1,2 га. Адкрыў і даследаваў у 1986 В. У. Шаблюк. Культурны пласт 0,6 м. На паверхні прасочваюцца цёмныя плямы авальнай формы, верагодна, месцы б. пабудоў.

Знойдзена бытавая кераміка 16—18 ст. (у т. л. белагліняная, вырабленая ў Германіі), фрагменты тэракотавай кафлі, круглага аконнага шкла. У 1526 праз Отмыт праязджаў нямецкі падарожнік З. Герберштэйн.

*Літ.*: 229. *В. У. Шаблюк.*

**ДУКА́Т** (лац. ducatus герцагства), агульнаеўрапейская назва залатой манеты. Першы Д., выпушчаны Венецыяй у 1284, тыпалагічна блізкі да манет Візантыі. На аверсе — укленчаны дож, які прымае сцяг з рук св. Марка; на рэверсе — выява Хрыста ў авальным кропкавым німбе і легенда **Sit Tibi Christe Datus Quem Tu Regis Jeste Ducatus** (гэта

герцагства, якім ты правіш, табе, Хрыстос, прысвячаецца), з апошнім словам якой звязваюць часта паходжанне назвы манеты, хоць яно сустракаецца на буйных сярэбраных манетах Італіі ў 12 ст.

Венецыянскі Д. спачатку быў цяжэйшы за залатыя манеты Генуі (джанавіна) і Фларэнцыі *(фларын)* сярэдзіны 13 ст., пазней зраўняўся з імі па якасці (каратная проба XXIII $^1/_2$) і масе (*лігатурная маса* каля 0,5 г). З 14 ст. Д. называюць адпаведныя яму ў якасных і метралагічных нормах залатыя манеты Венгрыі і Чэхіі (1525—26), пазней —



Жалезная сякера 10—11 ст. з курганнага могільніка **Дудаўка**.

дзяржаў Германскай імперыі *(гульдэн)*. У Польшчы ўпершыню чаканены ў 1320, адноўлены з 1528. Д. ВКЛ з'явіўся ў 1562, у Расіі яму адпавядаў *чырвонец.* У бел., укр. і польскіх актавых матэрыялах да канца 15 ст. Д. называўся «золотой» (злоты), потым «червоный (чирвоный, черлёный, чорлены, червлёный) золотой» або «залаты ў золаце».

На тэр. Беларусі ў 14—16 ст. вядомы Д. Венгрыі, у канцы 16—18 ст.— Д. Паўн. Нідэрландаў (гл. *Лабанчык*) і Германіі. Адзіны на Беларусі «угорскі Д.» 15 ст. знойдзены ў час археал. раскопак Замкавай гары ў Крычаве. Нярэдка панящце «Д». вызначае не манету, а вагавую адзінку для залатых вырабаў.

*Літ.*: 1664, 1693. *В. Н. Рабцэвіч.*

**ДУЛЕ́БЫ,** група помнікаў эпохі Кіеўскай Русі каля в. Дулебы Бярэзінскага р-на. Вядомы з канца 19 ст.

Г а р а д з і ш ч а. Знаходзілася за 1 км на Пн ад вёскі, на левым беразе р. Дулебкі, ва ўрочышчы Гарадок. Культурны пласт на гарадзішчы дасягаў 1 м. Даследаванні на гарадзішчы не праводзіліся. У 1970-я г. яно было знішчана пры будаўніцтве дарогі ў в. Мачаск.





**Дукат.** П о л ь ш ч а: 1. Уладзіслаў I Лакетак, каля 1320; 2. Жыгімонт I Стары 1529. В К Л: 3. Жыгімонт II Аўгуст, 1561. Р э ч  П а с п а л і т а я: 4. Стэфан Баторый, 1586, трансільванская чаканка; 5. Зыгмунт III Ваза, 1592, польская чаканка; 6. Уладзіслаў IV, 1641, польская чаканка; 7—8. Ян II Казімір Ваза літоўская (1666) і польская (1649) чаканкі; 9. Аўгуст III, 1752, польская чаканка; 10. Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, 1786, польская чаканка. А ў с т р ы я: 11. Фердынанд I, 1551; 12. Іосіф I, 1708. В е н г р ы я: 13. Ласла V [1444—57], недатаваны; 14. Максіміліян I, 1567; 15. Рудольф II, 1597; 16. Манета 1704 часоў нацыянальна-вызваленчага паўстання 1704—11; 17. Марыя Тэрэзія 1760. Г а л а н д ы я: 18. 1603. К а р ы н т ы я: 19. Карл, 1576.

С е л і ш ч а. Распасціралася ўздоўж правага берага р. Дулебкі амаль насупраць гарадзішча. Знішчана адначасова з гарадзішчам.

К у р г а н н ы  м о г і л ь н і к - 1. За 1 км на У ад вёскі, 500 м ад гарадзішча, злева ад дарогі Дулебы — Баравіца, ва ўрочышчы Баравіца. 100 насыпаў паўсферычнай формы выш. 0,8—2,5 м (адзін выш. 3,5 м), дыям. 10—20 м. Пл. могільніка каля 1 га. Курганы добра захаваліся, здзірванелі, параслі лесам, вакол вял. насыпаў прасочаны равок. Абследавала ў 1979 Т. С. Бубенька. Раскопкі не праводзіліся.

К у р г а н н ы  м о г і л ь н і к - 2. Мясц. назва Шведскія магілы. За 2 км на Пн ад вёскі, 1 км ад гарадзішча, абапал дарогі Дулебы — Мачаск, на левым беразе р. Дулебка, ва ўрочышчы Пясчаны брод. Было каля 100 насыпаў, частка іх знішчана адначасова з гарадзішчам. Асталося 86 моцна апоўзлых насыпаў выш. 1,1—2,3 м, дыям. 10—15 м. Могільнік здзірванелы, парослы лесам, у насыпах сляды вялізных ям (лісіныя норы). У канцы 19 ст. частку курганоў раскапаў Г. Х. Татур, матэрыялы раскопак не захаваліся. Абследавала ў 1979 Т. С. Бубенька.

*Т. С. Бубенька.*

**ДУНА́ЙСКАЯ КУЛЬТУ́РА,** гл. *Лінейна-стужкавай керамікі культура.*

**ДУРЧЭ́ЎСКІ** (Durczewski) Здзіслаў

(3.7.1908, м. Длонь Пазнанскага ваяв.—5.8.1944), польскі археолаг. Д-р гіст. навук (1936). З 1932 у Археал. музеі ў Варшаве. У 1937—39 узначаліў археал. даследаванні на Замкавай гары ў Гродне. Выявіў на пл. 240—300 м² культурны пласт 4,65 м, вывучыў фрагмент драўлянай забудовы дзядзінца 12—15 ст. з рэшткамі 23 пабудоў і шматлікімі археал. знаходкамі (каля 9 тыс.). У гады Вял. Айчыннай вайны калекцыя знаходак у Гродне разрабавана, дакументацыя загінула. Часткова звесткі пра вынікі раскопак Д. паведаміў М. Варонін у сваёй манаграфіі «Старажытнае Гродна» (1954).

*Тв.*: Stary zamek w Grodnie w świetle wykopalisk dokonanych w latach 1937—1938 // Niemen. Grodno, 1939. № 1; Gród litewski z XIII i XIV w. na Starym Zamku w Grodnie // Kuryer literacko-naukowy. 1939. № 47; Doniosłe wyniki prac wykopaliskowych na Starym Zamku w Grodnie w latach 1937—1939 // Там жа. 1939. № 48.

*Літ.*: 206. *А. А. Трусаў.*

**ДУ́ЧЫЦ** Людміла Уладзіміраўна (12.12.1950, Мінск), беларускі археолаг. Канд. гіст. навук (1982). Скончыла БДУ імя Леніна (1975). З 1974 у Ін-це гісторыі АН Беларусі. Вывучае гісторыю паўн. захаду Полацкага княства, культавыя камяні, каменныя крыжы, археал. мікратапаніміку, стараж. касцюм на тэр. Беларусі. Праводзіла раскопкі на гарадзішчах Маскавічы і Рацюнкі на Браслаўшчыне, гідраархеал. даследаванні ў Падзвінні, раскапала больш за 300 курганоў на Пн Беларусі.

*Тв.*: Барысавы камяні: (гістарыягр. агляд) // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1985. № 4; Край блакітных азёр. Мн., 1988; Браслаўскае Паазер'е ў IX—XIV стст.: Гіст.-археал. нарыс. Мн., 1990.

**ДЫВЕРГЕ́НЦЫЯ** (лац. divergentia разыходжанне) у археалогіі, адхіленне прыкмет прадметаў, рэчаў ад звыклага, агульнавядомага, разыходжанне іх у асобных, дробных дэталях і падрабязнасцях, якое ўзнікла ў працэсе эвалюцыі, гіст. развіцця, вытворчасці і інш. Магла развіцца з цягам часу ў асобных відаў або тыпаў посуду, прылад працы, упрыгожанняў, жытлаў і інш. На пэўнай ступені Д. могуць утварацца ці ўзнікаць новыя віды, тыпы або групы тыпаў (гл. *Тыпалогія*), катэгорыі. Сярод іх пераважаюць найб. дасканалыя, зручныя, эфектыўныя, модныя. Д. рэчаў, якія выкарыстоўваюцца ў быце і вытворчасці, адбываецца ў рамках адной культуры і ў старажытнасці слаба залежала ад культурных уплываў суседзяў. У выніку Д. могуць утварацца праз нейкі перыяд часу варыянты ўнутры адной культуры або нават новыя, сваяцкія культуры, генетычна злучаныя паміж сабой. Гэта іншы раз адлюстроўвае працэс сегментацыі (аддзяленне плямён, складанне племяннай групы з раней адзінага племя). Нашчадкі побач з традыцыйнымі рэчамі найчасцей выкарыстоўваюць прадметы, якія ў працэсе развіцця набылі дывергентныя змяненні. *У. Ф. Ісаенка.*



**Дырхем.** Арабскі Халіфат: 1. Амаяды, Хішам, 731—732, г. Іфрыкія; 2. Абасіды, ал-Мансур, 770—771, г. Арменія; 3. Саманіды, Мансур ібн Нух, 962, г. Бухара; Сафарыды, Амр ібн Лайс, 896—897, г. Шыраз; 5. Укайліды, Нур ад-даула, 1002—03, г. ал-Маусіл; 6. Буіды, Рукн ад-даула, 965—966 (г. ал-Мухамедыя). Волжская Булгарыя: 7. Мікаіл ібн Ахмад, 920—921, г. Сувар. Залатая Арда: 8. Джучыды, Тактамыш, 1389—90, г. Сарай ал-Джадзід.

**ДЫРХЕ́М** (араб. dircham ад грэч. драхма), сярэбраная манета мусульманскага Усходу. 1) Манета Арабскага халіфата (*метрычная проба* каля 960, *лігатурная маса* 2,5—4 г). Упер-

шыню эмітаваны паміж 692 і 696. У сучаснай нумізматыцы Д. называюць куфіцкім (па найменні арнаментальнага пісьма, што ўзнікла ў канцы 7 ст. ў г. Ал-Куфа, якім выконваліся легенды на аверсе і рэверсе манет халіфата).

З пач. 9 ст. Д. сістэматычна з'яўляюся на Русі і стаў асн. сродкам грашовага абарачэння да канца 980-х г. Старaж.-рус. грашовая сістэма склалася з цэлых *(куна, нагата)* і фрагментаваных *(разана, вевярыца)* экземпляраў Д., пра што сведчаць скарбы 9—10 ст. (гл. *Добрынскі манетна-рэчавы скарб, Казьянкаўскі манетны скарб, Ракавецкі манетны скарб, Старадзедзінскі манетны скарб* і інш.). Страж.-рус. абарачэнне куфіцкага Д. працягвалася за кошт паступленняў у 9—10 ст. разам з зах.-еўрап. *дэнарыямі* да 12 ст. (гл. *Гараўлянскія манетна-рэчавыя скарбы, Дзягцянскі манетна-рэчавы скарб, Стражавіцкія манетна-рэчавыя скарбы).* 2) Манета Залатой Арды (лігатурная маса 1,4—1,5 г). Яна абмежавана абарачалася і на Пд Беларусі (Брэсцкая і Гомельская вобл.) у 14—15 ст.

*Літ.:* 1571, 1577, 1585. *І. Ф. Масько.*

**ДЫФЕРЭ́НТ** (лац. differens розніца), дробны дапаможны ўмоўны знак у манетным полі, якім пазначаўся манетны двор, яго арандатар, падскарбі. Вядомы з антычных часоў.

Найб. развіццё атрымаў у Францыі. Патаемныя кропкі (з 1411 — калечкі) увёў у 1389 арданананс Карла VI. Манетны двор пазначаўся кропкай пад адной з 20 літар *легенды.* З 1418 манетныя двары будучага караля Карла VII пазначалі манеты асобнымі літарамі. Манеты, чаканеныя ад імя англійскага караля Генрыха VI [1422—61] у Францыі, мелі ў якасці Д. манетных двароў маленькія ўмоўныя малюнкі. Сістэму ўмоўных кропак замянілі літары (з 1540 да канца 19 ст.). У Рэчы Паспалітай Д. былі гербы падскарбіяў, адміністратараў скарбаў Польшчы (Кароны) і ВКЛ, ініцыялы арандатараў манетных двароў. Майстры, што рабілі *штэмпелі* на адным манетным двары, адрознівалі свае вырабы рознымі знакамі (наяўнасць або адсутнасць кропак, зорак і інш.). На манетах Расійскай імперыі Д. былі *абрэвіятуры* манетнага двара, ініцыялы мінцмайстра. У канцы 19 — пач. 20 ст. Д. размяшчалі на *гурце* буйных сярэбраных манет.

*Літ.:* 1626, 1657, 1673. *І. І. Сінчук.*

**ДЫФУ́ЗІЯ КУЛЬТУ́РНАЯ** (ад лац. diffusio распаўсюджванне, расцяканне, рассейванне) у археалогіі, працэс распаўсюджвання пэўных культ. элементаў з пэўных цэнтраў. Археалогія фіксуе запазычанні практычна ва ўсіх сферах жыцця старaж. грамадства. Напр., можна меркаваць, што ўменне ліцця бронзы, з якога пачалася на Беларусі эпоха металаў, прыйшло з Пд (Каўказа ці Балкан) ці З (Карпаты). Традыцыйная слав. печ-каменка, да якой на тэр. Беларусі былі вядомы толькі адкрытыя ачагі, запазычана ў сярэдзіне 1-га тысячагоддзя. Асабліва хутка і шырока распаўсюджваліся ўзоры ўпрыгожанняў, пэўныя тыпы зброі і прылады працы. Так, на гарадзішчы *Гарошкаў*, якое адносіцца да *мілаградскай культуры*, знойдзены шматлікія рэчы скіфскіх і кельцкіх тыпаў (сякеры, наканечнікі дзідаў, завушніцы, бранзалеты). Шляхам Д. к. распаўсюджвалася не толькі прадукцыя іншаземных майстроў, але і іх тэхналагічныя прыёмы. Пацверджаннем таму могуць служыць гліняныя формы для адлўкі бранзалетаў кельцкага тыпу. Прыбалтыйскія плямёны пераняла ў старaж. бел. майстроў шэраг тыпаў прылад паўд. паходжання (сякеры-кліны і інш.). У зах. археолагаў і этнографаў 19 — пач. 20 ст. бытавала тэорыя дыфузіянізму, для якой характэрна перабольшванне ролі запазычанняў у працэсе развіцця старaж. грамадства. Для мінулага айчыннай археалогіі ўласціва тлумачэнне ўсіх культ. дасягненняў мясц. паходжаннем (гл. *Аўтахтоннасць).*

*С. Я. Расадзін.*

**ДЫЯГНАСТЫ́ЧНЫЯ ПРЫКМЕ́ТЫ**, сукупнасць марфалагічных і марфаметрычных асаблівасцей будовы касцей, уласцівыя толькі пэўнаму віду жывёл: форма косці, вырасты і гузаватасць яе паверхні, адтуліны, даўжыня і шырыня дыяфіза і эпіфіза і іх суадносіны. Д. п. з'яўляюцца асновай астэалагічнага даследавання касцявых рэштак. Выяўленне Д. п. на касцях з археал. помнікаў ускладняе іх фрагментацыя, пашкоджанні пры кухоннай апрацоўцы і інш. У блізкіх відаў выяўленне Д. п. часта ўскладнена, асабліва ў выпадках аналізу касцявых рэштак маладых жывёл, у якіх яны не выражаны, або выражаны слаба (напр., каза, авечка). Даследаванне астэалагічнага матэрыялу з археал. раскопак дае магчымасць у шэрагу выпадкаў вызначыць пароды жывёл, іх узрост, рост, масу, выкарыстанне ў гаспадарцы, што з'яўляецца крыніцай для вывучэння старaж. палявання і жывёлагадоўлі.

*Н. П. Александровіч.*

**ДЫЯДЭ́МА** (грэч. diadema), галаўная павязка, вянец. Вядома ў старaж.-грэч. жрацоў. У старажытнасці і сярэднія вякі была сімвалам царскай улады. Пазней вядома як галаўное жаночае ўпрыгожанне ў выглядзе налобнай павязкі з тканіны або металічнага абруча з аздобай, расшыранага ў сярэдняй частцы. На тэр. б. СССР сустракаецца ў пахаваннях заможных скіфаў і сарматаў. На Беларусі ў могільніку сярэднедняпроўскай культуры (22—14 ст. да н. э.) *Рудня-Шлягіна* знойдзены 2 упрыгожанні накшталт Д., якія ўяўляюць сабой пляскатыя медныя пласціны, сагнутыя ў выглядзе абруча з завужанымі замкнутымі канцамі.

*Літ.:* 79.

**ДЭ́БЕЦ** Георгій Францавіч [24.11(7.12).1905, Томск — 19.1.1969], рускі антраполаг. Д-р біялагічных навук (1941), праф. (1944). Скончыў Іркуцкі ін-т (1925). З 1927 у Ін-це антрапалогіі пры Маскоўскім дзярж. ун-це, з 1945 у Ін-це этнаграфіі АН СССР. Даследаваў пытанні расазнаўства, этнічнай антрапалогіі і антрапалагічнага складу народаў СССР і Афганістана, палеаантрапалогіі, антрапагенезу. Сабраў і даследаваў у этнагенетычным плане матэрыял пра старaж. насельніцтва на тэр. СССР. Упершыню даследаваў краніялагічны матэрыял па насельніцтву Беларусі 10—13 ст. Распрацоўваў методыку антрапалагічных даследаванняў.

*Тв.:* Чарапы Люцынскага могільніка і старажытных славян Беларусі... // Працы секцыі археалогіі Ін-та гісторыі БАН. Мн., 1932. Т. 3; Палеоантропология СССР. М.; Л., 1948.

**ДЭНА́РЫЙ** (лат. denarius ад deni дзесяць, па дзесяць), 1) сярэбраная манета Старaж. Рыма, якая чаканілася з 269 да н. э. да 1-й пал. 3 ст. н. э. Спачатку разменьвалася на 10 медных манет (асаў), да 217 да н. э. маса 4,55 г, з 217 — 3, з 89—3,41 г. У *Клімавіцкім манетным скарбе* знаходзіліся Д. канца 1—1-й трэці 3 ст. н. э. 2) Сярэбраная манета германскіх дзяржаў 5 — сярэдзіны 8 ст., якая імітавала рымскі Д. (гл. *Манета-перайманне).* 3) Сярэбраная манета дзяржаў Зах. Еўропы сярэдзіны 8—1-й пал. 12 ст. (маса 1,8—1,9 г, з пач. 12 ст. паменшала да 0,9—0,8 г). У Старaж. Русі абарачаўся Д. з канца 10 ст. да канца 1-й чвэрці 12 ст. Скарбы на Беларусі (*Гараўлянскія манетна-рэчавыя скарбы, Дзягцянскі манетна-рэчавы скарб, Людвішчанскі манетны скарб)* сведчаць аб мяшаным грашовым абарачэнні: з вядучай роляй Д. захоўваецца значны працэнт куфіцкіх дырхемаў, ёсць адзінкавыя экземпляры *намісмаў, міліярысіяў, фолісаў, златнікаў* і *срэбранікаў.* 4) Сярэбраная, потым білонная манета княства і Каралеўства Польшчы. У польскай манетнай сістэме 14—15 ст. Д. чаканіўся ў білоне (маса 0,25—0,45 г) і выконваў ролю самага дробнага *наміналу.* Гл. таксама *Дэнарый польскі.* 5) Сярэбраная, потым білонная і медная разменная манеты ў дзяржавах Зах. Еўропы 13—17 ст. 6) Сярэбраная манета Вял. кн. Літоўскага ў 14—15 ст. (маса да 1 г), у 16 ст. білонная манета Віленскага манетнага двара 1501—06 (проба IV, маса 0,32 г), 1546—60 і 1563 (проба III $^1/_2$, маса 0,3 г). 7) Білонныя каронныя (польскія) манеты Рэчы Паспалітай Кракаўскага двара 1619—24 (проба I $^1/_2$, маса 0,36 г). Літоўскі Д. (у бел. крыніцах — пенязь) роўны $^1/_{10}$ *грошa літоўскага* і $^1/_8$ *гроша польскага,* каронны — $^1/_8$ гроша польскага.

*Літ.:* 1542, 1569, 1585, 1671, 1692.

*І. Ф. Масько.*

**ДЭНА́РЫЙ ДВАЙНЫ** (польск. dwudenar), білонная манета ВКЛ наміналам у 2 *дэнарыі,* роўная $^1/_5$ *гроша літоўскага,* $^1/_4$ *гроша польскага.* Выпускаў *Віленскі манетны двор* у 1565—67, 1569—70 (*лотавая проба* III $^1/_2$, *лігатурная маса 0,634* г), у 1606—07, 1609, 1611—14, 1620—23 і 1626 (проба I $^1/_2$, маса 0,73 г). Вядомы Д. д. з памылковымі датамі 1550 і 1559 замест адпаведна 1570 і 1569. Курляндыя (леннік Рэчы Паспалітай) у 1579 выпусціла Д. д. (проба III $^1/_2$, маса каля 0,6 г) з гербам ВКЛ («Пагоня»). 0,3 г); Стэфан Баторый — 1581—82 (проба I$^1/_2$, маса 0,36 г).

*Літ.:* 1667.

**ДЭНА́РЫЙ ПО́ЛЬСКІ**, сярэбраная, пазней білонная манета Польшчы ў 10—17 ст. Чаканілі да 992, магчыма, у Познані, у 992 — 1025 у Гнезне, пасля ў Кракаве. *Намінал* на манетах не пазначаны.

Мешка I [960—992], *метрычная проба* ≈ 950, *лігатурная маса* ≈ 1,50 г. Баляслаў I Храбры [992—1025], проба ≈ 938, маса ≈ 1,31 г. Мешка II [1025—34], проба ≈ 938, маса ≈ 1,38 г. Баляслаў II Смелы [1058—79], проба ≈ 500, маса ≈ 0,71 г. Уладзіслаў I Герман [1079—1102], проба ≈ 750, маса ≈ 0,69 г. Баляслаў III Крывавусы [1102—38], проба ≈ 750, маса ≈ 0,57 г. Уладзіслаў II Выгнаннік [1138—46], проба ≈ 875, маса ≈ 0,50 г. Баляслаў IV Кучаравы [1146—73], проба ≈ 938, маса ≈ 0,46 г. Мешка III Стары [1173—77, 1190, 1198—1201, 1202], проба ≈ 875, маса ≈ 0,26 г. Генрых I Барадаты [1228—38], проба ≈ 875, маса ≈ 0,18. Уладзіслаў I Лакетак [1320—33], *лотавая проба* XIV, маса ≈ 0,34 г. Казімір III Вялікі, чаканка з 1368, проба V, маса ≈ 0,24 г. Ядвіга [1384—85], проба V $^1/_2$, маса ≈ 0,25 г. Уладзіслаў II Ягайла, чаканка 1389—96, проба IV, маса ≈ 0,27 г; чаканка 1396—98, проба V $^1/_2$, маса ≈ ≈ 0,27 г; чаканка 1398—1409, проба V $^1/_2$, маса ≈ 0,24 г; чаканка 1410—14, проба II, маса ≈ 0,44 г. Уладзіслаў III Варненьчык [1434—44], чаканка да 1440, проба II, маса 0,38 г. Казімір IV Ягелончык [1447—92], чаканка з 1456, проба II, маса ≈ ≈ 0,42 г. Ян I Ольбрахт, чаканка 1492, проба II, маса ≈ 0,37 г. Жыгімонт I Стары [1506—48], проба I $^1/_2$, маса 0,37 г. Зыгмунт III Ваза [1587—1632], чаканка 1619—24 і недатаваная, проба I $^1/_2$, маса 0,36 г.

*Літ.:* 1671, 1693. *В. Н. Рабцэвіч.*



**Дэнарый.** Рым (рэспубліка): 1—2. 145—138 г. да н. э. Рым (імперыя): 3. Ціт [79—81]; 4. Антанін Пій [138—161]; 5. Каракала [211—217]. Англія: 6. Этэльрэд II [979—1016]. Венгрыя (каралеўства): 7. Стэфан I [1000—38]. Германская Свяшчэнная Рымская імперыя: 8—9. Атон III [996—1002], г. Кёльн і Майнц; 10. Генрых III [1039—56], г. Шпейер. Чэхія (каралеўства): 11. Бржэтыслаў I [1034—55]. Польшча: 12 Баляслаў I Храбры [992—1025]; 13. Баляслаў II Смелы [1058—79]; 14. Уладзіслаў I Герман [1079—1102]; 15. Баляслаў III Крывавусны [1102—38]; 16. Уладзіслаў II Выгнаннік [1138—46]; 17 Уладзіслаў II Ягайла [1386—1434]; 18. Жыгімонт I Стары [1506—48]. ВКЛ: 19. Канец 14— пач. 15 ст.; 20. Аляксандр Ягелончык [1492—1506]; 21. Жыгімонт II Аўгуст, 1552. Рэч Паспалітая: 22—23. Зыгмунт III Ваза, эмісія ВКЛ 1620 і г. Познані 1602. Венгрыя (каралеўства): 24. Фердынанд I, 1548.

*Літ.:* 1667, 1669.

**ДЭНА́РЫЙ ЛІТО́ЎСКІ**, сярэбраная і білонная манета ВКЛ. З канца 15 ст. роўны $^1/_{10}$ *гроша літоўскага* і $^1/_3$ *гроша польскага.*

Выпускаў *Віленскі манетны двор* у канцы 12—1-й трэці 15 ст. (серабро, *лігатурная маса* 0,7—0,8 г): Аляксандр Ягелончык [1492—1506] — недатаваны (*лотавая проба* IV, маса 0,32 г); Жыгімонт II Аўгуст — 1545—60, 1563 (проба III $^1/_2$, маса

**ДЭНДРАХРАНАЛО́ГІЯ** (грэч. déndron дрэва + chrónos час + lógos навука), навуковая дысцыпліна пра метады датавання гіст. падзей, стараж. драўляных збудаванняў і прыродных з'яў, заснаваная на ана-

лізе гадавых кольцаў драўніны. Велічыня гадавых кольцаў залежыць ад кліматычных, глебавых і інш. знешніх фактараў, на якія рэагуе дрэва (як біялагічны арганізм) змяненнем гадавога прыросту. Графічнае адлюстраванне велічынь гадавых кольцаў тарцовых спілаў дрэва паказвае гэтыя змены. Серыі графікаў з некалькіх стагоддзяў дазваляюць вызначыць дакладную дату кожнага спілу з дапамогай аднаго або некалькіх узораў з вядомай датай парубкі. Метад Д. шырока выкарыстоўваюць пры вывучэнні клімату мінулага. Д. падраздзяляюць на дэндракліматалогію, якая займаецца рэканструкцыяй мінулых кліматычных умоў,.і ўласна Д., з дапамогай якой па гадавых кольцах датуюць і падзеі мінулага. Вывучаць клімат мінулага па змяненнях велічынь гадавых кольцаў упершыню прапанаваў Леанарда да Вінчы. Першыя практычныя крокі ў даследаванні клімату па гадавых кольцах зрабілі К. Ліней, А. Пакорні і Ф. Н. Шведаў. Метад Д. ўпершыню выкарыстаў А. Дуглас пры датаванні ацтэкскіх паселішчаў у Амерыцы (1929). Масавая шкала Д. ў ЗША даведзена да 59 г. да н. э. З 2-й пал. 20 ст. Д. пачалі выкарыстоўваць у Англіі, Нарвегіі, СССР, Фінляндыі, ФРГ і Швецыі. Вывучалі дуб, елку, хвою, лістоўніцу. У 1950-я г. ў Ленінградскім аддзяленні Ін-та археалогіі АН СССР І. М. Заматорын даў адноснае датаванне археал. матэрыялу Пазырыкскіх курганоў Сярэдняй Азіі. У пач. 1960-х г. В. Я. Віхроў і Б. А. Колчын прадатавалі ўзоры драўніны з раскопак Ноўгарада, выкарыстаўшы для складання графікаў росту гадавых кольцаў паўлагарыфмічныя дыяграмы. Са стварэннем наўгародскай абсалютнай дэндрахраналагічнай шкалы стала магчымым датаваць стараж. драўляныя збудаванні з дакладнасцю да 1 года. У лабараторыі Ін-та археалогіі АН СССР (створана ў 1959) Колчын і Н. Б. Чарных прадатавалі многія стараж. гарады Усх. Еўропы, у т. л. і Полацк (1965). Устаноўлена, што ў Полацкай зямлі на жыццё хваёвага лесу аказваў уплыў той жа экалагічны фактар, што і ў раёне Ноўгарада, і кліматычныя ваганні аднолькава фіксаваліся ў структуры драўніны хваёвых лясоў. Усяго з раскопак полацкага Верхняга замка даследавана 138 узораў дрэва з храналогіяй ад 1139 да 1300. Крайнімі кропкамі храналагічнай шкалы Мсціслава з'яўляюцца даты 1115 і 1343, Берасцейскага гарадзішча — 1048 і 1433. Спроба дэндралагічнага вывучэння дрэва з раскопак *Мінскага замка* зроблена Э. М. Загарульскім і П. А. Русавым. Датаваны асобныя ўзоры драўніны з Віцебска і Слуцка. Агульная дэндрахраналагічная шкала Усх. Еўропы даведзена да 788 г.

*Літ.:* 202, 385, 409, 551, 560, 702, 1031, 1323, 1333.

*П. А. Русаў, Г. В. Штыхаў.*

**ДЭРМАТАГЛІ́ФІКА** [грэч. dérma (dérmatos) скура + glyphē гравірую], навука пра скураныя малюнкі далоняў і падэшваў у чалавека і некаторых малпаў. Тэрмін Д. прапанаваны амерыканскімі вучонымі, афіцыйна зацверджаны ў 1926 на 42-й сесіі амерыканскай Асацыяцыі анатамаў. Мае некалькі кірункаў. Э т н і ч н а я Д. вывучае характар і прычыны зменлівасці скурных малюнкаў у розных рас і народаў, яе даныя шырока выкарыстоўваюць для праверкі гіпотэз па сістэматызацыі рас і паходжанні асобных народаў. Г е н е т ы ч н ы кірунак у Д. вывучае механізм перадачы па спадчыннасці папілярных (сасочкавых) малюнкаў, магчымасці выкарыстання іх як дыягнастычнага тэста пры спадчынных хваробах. А н а т а м і ч н ы кірунак вывучае сувязі скурных малюнкаў з сасудзістым пучком і нервовымі адросткамі, а таксама ўзнікненне ў плода скурных малюнкаў (марфагенез). Даследаваннямі ўстаноўлена, што асн. віды малюнкаў — петлі, завіткі і дугі паяўляюцца на 17-м тыдні эмбрыянальнага развіцця, а ў 5-месячнага плода назіраецца ўстойлівы тып сігнальных барознаў і скурных малюнкаў, якія на працягу далейшага жыцця не мяняюцца, а пасля неглыбокіх раненняў аднаўляецца. У судовай медыцыне (дактыласкапія) скурныя малюнкі выкарыстоўваюць для ідэнтыфікацыі асобы.

*Літ.:* 235, 293, 1164. *Л. І. Цягака.*

**ДЭФЕ́КТЫ МАНЕ́ТЫ**, пашкоджанне манетнага кружка або выявы на манеце, якое ўтварылася ў працэсе вырабу манеты ці яе абарачэння. Да Д. м. адносяць адсутнасць сегмента кружка з-за недакладнай вырубкі, скразныя адтуліны з-за недабраякаснай адліўкі, пашкоджанне ў працэсе штампоўкі (зрушэнне штэмпеля, заглыблены адбітак відарыса), недабраякаснасць манеты з-за *дэфекту штэмпеля,* пашкоджанне манеты падчас яе абарачэння.

**ДЭФЕ́КТЫ ШТЭ́МПЕЛЯ**, пашкоджанне працоўнага інструмента для вырабу манет; адна з прычын *дэфекту манеты.* Узнікае ў час вырабу штэмпеля (памылка гравёра ў легендзе ці выяве, прамая гравіроўка, а не люстраная), яго эксплуатацыі (трэшчыны ці сколы краёў, якія ўтвараюць рэльефны адбітак на манеце, забруджванне, з-за якога страчваюцца элементы літар і выяў). Д. ш. трэба адрозніваць ад дэфектаў, перададзеных дэфектнымі *пуансонамі* або пашкоджаным *матачнікам.*

# Е

**ЕГАРЭ́ЙЧАНКА** Аляксандр Андрэевіч (н. 23.4.1955, г. Канатоп Сумскай вобл.), беларускі археолаг. Канд. гіст. навук (1982). Скончыў БДУ (1977). У 1977—87 навук. супрацоўнік аддзела археалогіі першабытнага грамадства Ін-та гісторыі АН БССР. З 1988 — у БДУ. Даследаваў пераважна культуры жал. веку на Беларусі. Падчас разведак на



А. А. Егарэйчанка.

Прыпяці і яе прытоках адкрыў невядомыя да таго помнікі археалогіі, правёў раскопкі на паселішчах жал. веку Івань Слуцкага,Халопенічы Глускага, Давыд-Гарадок СтоліНскага, Востраў Пінскага, Кашчэлічы Вілейскага р-наў. Аналізуючы тапаграфію ўмацаваных паселішчаў, прыйшоў да высновы, што мілаградскія плямёны будавалі гарадзішчы на роўных месцах ці ўзвышшах сярод балот, насельніцтва ж сумежных культур лясной зоны — на высокіх пагорках ці мысах па берагах рэк і азёр. На падставе асаблівасцей ляпнога посуду і домабудаўніцтва вылучыў сярэднебел. варыянт мілаградскай культуры. Выказаў меркаванне аб значнай ролі падсечнага земляробства ў эканоміцы плямён Бел. Палесся ў эпоху жалеза, аб этнакультурнай сітуацыі на тэр. Паўн. і Паўд. Беларусі ў раннім жал. веку.

*Тв.:* Типология городищ Белорусского Полесья в раннем железном веке // Краткие сообщения Ин-та археологии АН СССР. М., 1980. Вып. 162; К истории населения Белоруссии в раннем железном веке // Сов. археология. 1982. № 1; Раскопки городища у д. Холопеничи // Древности Белоруссии и Литвы. Мн., 1982; Аб характары земляробства і земляробчых прылад працы ў насельніцтва Беларускага Палесся ў раннім жалезным веку // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1983. № 3; Племена куль-

туры штрихованной керамики и славянский мир // Труды V Междунар. конгресса археологов-славистов. Киев, 1988. Т. 4 *В. С. Вяргей.*

**ЕЗЯРЫШЧАНСКІ ЗА́МАК,** комплекс драўляна-земляных умацаванняў 14—17 ст. за 3 км ад г. п. Езярышча Гарадоцкага р-на, на востраве воз. Езярышча, каля в. Мястэчка. Пляцоўка чатырохвугольнай формы, памеры 100×120 м. З усх. і паўн. бакоў захаваліся валы выш. 2—4 м, выразна бачны месцы, дзе стаялі 3 вежы. Дыям. іх каля 15 м, выш. насыпаў каля 7 м. З паўн. боку прасочваецца роў, які аддзяляў замак ад астатняй тэр. вострава. У час паводкі нізкая частка залівалася вадой, і замак ператвараўся ў астраўную крэпасць. Паводле польскага храніста Р. Гейдэнштэйна, у 16 ст. Е. з. меў значныя ўмацаванні і разам з Полацкім замкам панаваў над «усім краем». У Лівонскую вайну 1558—83 узяты рус. войскамі (1565) і спалены, потым адбудаваны. У 1579 яго знішчылі ў час штурму войскі караля Стэфана Баторыя, пазней адноўлены. У пач. 17 ст. ў час пажару ўмацаванні замка згарэлі, адбудаваны па загаду караля Зыгмунта III Вазы езярышчанскім старостам К. Сакалінскім. У жніўні 1654 рус. войскі на чале з ваяводам Сямёнам Стрэшневым захапілі замак.

Замчышча абследаваў у 1950 Л. В. Аляксееў. У 1971 Г. В. Штыхаў зрабіў план замчышча і правёў шурфоўку (2×2 м). У 1979 В. М. Ляўко правяла раскопкі на пл. 100 м² і прарэзку паўд. вежы з валам. Прарэзка паказала, што выш. насыпу ад цэнтра да асновы 6 м, радыус — 12 м, ядро пачатковага вала з шчыльнай ярка-чырвонай гліны, выш. 1,5 м. Вал і насып пад асновай вежы раздзяляліся ровам глыб. 0,8—1 м. На пляцоўцы, што была асновай вежы, выяўлены фрагмент (каля 1 м) з сумесі гліны, пяску, гравію і дробнага каменнія. Вышэй яго залягала праслойка цьмянай афарбоўкі з вял. колькасцю вугалю і попелу, над якой зафіксаваны рэшткі драўляных канструкцый. Яны перакрыты культурным пластом каля 1 м, дзе быў больш позні падмурак вежы, складзены з 2 ярусаў буйных валуноў. Знойдзеная кераміка сведчыць, што пабудова і аднаўленне вежы адносіцца да 14—15 ст. Гэта пацвярджаецца пісьмовымі крыніцамі, паводле якіх у 14 ст. існавала Азярышчанская воласць з цэнтрам у Азярышчы (цяпер Езярышча). Для абароны насельніцтва парубежнай воласці і быў, верагодна, пабудаваны замак. У разведачным раскопе пл. 100 м² на паўд. ускраіне гарадзішча каля вала культурны пласт 0,15—0,4 м. У мацерыку выяўлена шмат ям, запоўненых попелам і шлакам. Большасць керамікі адносіцца да 14—15 ст.; паводле формы і арнаменту яна блізкая да матэрыялаў з Арэшка і Пскова, датаваных 14—15 ст. Адзінкавыя знаходкі 16—17 ст. (паліваная кераміка, кафля) сведчаць, што ў гэты перыяд замак выкарыстоўваўся насельніцтвам як сховішча падчас ваенных дзеянняў. Частка керамікі адносіцца да 3-й чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. і да 8—10 ст., што сведчыць аб наяўнасці тут паселішча яшчэ да пабудовы замка.

*Літ.:* 34, 157, 673, 724, 990, 1076. *В. М. Ляўко.*



Авальная пласціна з геаметрычным арнаментам і жаночая статуэтка з біўня мамантa са стаянкі **Елісеевічы.**

**ЕЛІСЕ́ЕВІЧЫ,** верхнепалеалітычная стаянка 1-й пал. апошняй стадыі валдайскага зледзянення ў в. Елісеевічы Бранскага р-на. На правым беразе р. Судасць. Адкрыў у 1930 К. М. Палікарповіч, даследавалі ў 1935, 1936, 1946, 1948 Палікарповіч, у 1936 Ф. М. Завярняеў, у 1946 М. В. Ваяводскі, у 1963—68 У. Дз. Будзько.

У ніжнім гарызонце выяўлены рэшткі паўзямлянкавых жытлаў авальнай формы, заглыбленых у зямлю на 0,5—0,6 м, зробленых з розных касцей мамантa (чарапы, буйныя трубчастыя плоскія косці). Знойдзены крамянёвыя прылады працы (бакавыя, вуглавыя, сярэдзінныя, пляскатыя разцы, скрабкі на канцах ножападобных пласцін, вастрыі, пласціны з прытупленым рэтушшу краем, долаты, цяслападобныя прылады, адбойнікі, рэтушоры), нуклеусы, вырабы з касцей зайца, лісіцы, ваўка, бурага мядзведзя, пясца, паўн. аленя і інш., біўня мамантa (верацёнападобныя наканечнікі коп'яў, землекапалкі, іглы з вушкам, шылы, праколкі). У ліку цікавых знаходак — авальныя пласціны з біўня мамантa са складаным геам. арнаментам у выглядзе 6-вугольнікаў, зігзагаў, ліній, што нагадваюць луску рыбы, выявы рыбы; жаночая статуэтка з біўня мамантa; упрыгожанні (амулеты, падвескі) з прасвідраваных для падвешвання зубоў дробнай жывёлы, марскіх ракавін і прэснаводных малюскаў, трубачак марскіх чарвякоў. Культурны пласт верхняга гарызонту 2,5 м. Выяўлены крамянёвыя наканечнікі стрэл, у т. л. з бакавой выемкай, пласціны, скрабкі. Датуюцца: ніжні гарызонт 20—18-м тысячагоддзямі да н. э., верхні — 13—10-м тысячагоддзямі да н. э.

*Літ.:* 167, 168, 172, 847, 919. *У. Дз. Будзько.*

**Е́ЛЬСКІ** Аляксандр Карлавіч [16.6.1834, в. Дудзічы Ігуменскага пав. (цяпер Пухавіцкі р-н) — 10.9.1916], беларускі краязнавец, гісторык, літаратар, этнограф, публіцыст. Скончыў Мінскую гімназію (1852). Чл. Акадэміі ведаў у Кракаве (1892). Даследаваў гісторыю, этнаграфію, фальклор, мову і літаратуру Беларусі. У «Геаграфічным слоўніку Каралеўства Польскага і іншых славянскіх краін» апісаў мясцовасці амаль усіх бел. паветаў, дзе называў мясц. гарадзішчы, курганы, замчышчы, земляныя валы. У сваім маёнтку Замосце (Ігуменскі пав.) арганізаваў у 1864 прыватны краязнаўчы музей, у фондах якога было каля 7 тыс. кніг, 20 тыс. рукапісаў, больш за 1 тыс. гравюр, калекцыя жывапісных палотнаў, зборы манет, медалёў, прадметаў археал. знаходак (большасць экспанатаў загінула, некаторыя трапілі ў музей і архівы Вільнюса, Мінска і Польшчы).

*Літ.:* 745, 752. *Г. А. Каханоўскі.*





Касцяная іголка і каралі з ракавін каўры са стаянкі **Елісеевічы.**

**«ЕПАРХИА́ЛЬНЫЕ ВЕ́ДОМОСТИ»,** назва часопісаў, афіцыйных органаў епархій. Выдаваліся ў Расіі ў 2-й пал. 19 ст.— 1917. Мелі 2 часткі: афіцыйную, дзе друкаваліся ўрадавыя пастановы, указы і распараджэнні сінода, царкоўная хроніка, і неафіцыйную, дзе змяшчаліся матэрыялы па археалогіі, этнаграфіі, краязнаўству, літаратуры, бібліяграфіі, гісторыі царквы. Выдаваліся «Гродненские епархиальные ведомости» (1901—15, Гродна), «Литовские епархиальные ведомости» (1863—1916, Вільня, Масква), «Минские епархиальные ведомости» (1869—1917, Мінск, у 1915 — Разань), «Могилёвские епархиальные ведомости» (1883—1917, Магілёў), «Полоцкие епархиальные ведомости» (1874—1917, Віцебск). Сярод публікацый у «Литовских епархиальных ведомостях»: справаздача пра даследаванні М. Авенарыуса на Замкавай гары ў Драгічыне Надбужскім (1896. № 50), падрабязнае апісанне курганоў, гарадзішчаў, Барысавых камянёў у Дзісенскім і Віленскім пав. (1896. № 30). У «Полоцких епархиальных ведомостях» змешчаны арт. Дз. Даўгялы і М. Нікіфароўскага аб прадметах старажытнасці, якія захоўваліся ў Віцебскім епархіяльным царкоўна-археал. сховішчы (1897. № 23, 24; 1898. № 1, 10—12, 15—16; 1899. № 22), матэрыялы Е. Раманава, А. Сапунова і К. Гаворскага пра адкрыццё *Віцебскага царкоўна-археалагічнага музея* (1893. № 9). У «Могилёвских епархиальных ведомостях» змешчаны праца Е. Раманава пра археал. помнікі Магілёўскай губ. (1892. № 8), паведамленне пра адкрыццё Магілёўскага царкоўна-археал. музея (1904. № 30). У дадатках да «Минских епархиальных ведомостей» (вып. 1—9, 1878 і 1879) пададзены сістэматызаваныя па паветах звесткі, якія сталі першай археал. картай помнікаў Мінскай губ., аб гарадзішчах, курганных і бескурганных могільніках, каменных крыжах з надпісамі, сярэдневяковых крэпасцях, культавых і інш. пабудовах, падрабязная інфармацыя пра стварэнне Мінскага царкоўнага гіст.-археал. к-та і музея пры ім (1908. № 4, 6, 7), надрукаваны статут к-та (1908. № 3).

*У. Дз. Будзько.*



**ЖА́БІНА,** група помнікаў днепрадзвінскай і банцараўскай культур (сярэдзіна 1-га тысячагоддзя н. э.) каля в. Жабіна Усвяцкага р-на Расіі. Даследавала ў 1953 Я. У. Станкевіч.

Гарадзішча. За 1 км на Пн ад вёскі, каля воз. Сеніца. Пл. 1000 м². Умацавана кальцавым валам. Знойдзена сеткавая і гладкасценная кераміка. У 5—6 ст. выкарыстоўвалася як сховішча.

Селішча. За 40 м на ПнУ ад гарадзішча. Выяўлены рэшткі наземнага жытла слупавой канструкцыі, памеры 2,8×3,5 м, з каменным адкрытым агнішчам пасярэдзіне.

Знойдзены гаршкі (ляпныя слабапрафіляваныя, блізкія да слоікападобных), гліняныя праслíцы, тыгель, бронзавы пінцэт з расшыранымі канцамі, трапецападобная падвеска, зерняцёрка, жал. цуглі і шлакі.

Курганны могільнік. За 100 м на ПнЗ ад селішча. 7 курганоў. Пахавальны абрад — трупаспаленне на гарызонце або ў насыпе.

*Літ.:* 1130. *Г. В. Штыхаў.*

**ЖАЛЕ́ЗНЫ ВЕК,** апошняя (пасля каменнага і бронзавага вякоў) археал. эпоха ў гісторыі чалавецтва, якая характарызуецца з'яўленнем і шырокім распаўсюджаннем металургіі жалеза і вырабаў з яго прылад працы і зброі. Самая кароткая археал. эпоха: ад 9—7 ст. да н. э. да ўзнікнення ў розных плямён ранніякласавых утварэнняў.

Найбольш раннія вырабы з метэарытнага жалеза (упрыгожанні) знойдзены ў Егіпце ў пахаваннях, якія датуюцца 4-м тысячагоддзем да н. э. Шырокае распаўсюджанне жал. рэчаў пачалося ў канцы 2-га тысячагоддзя да н. э. пасля адкрыцця ў 15 ст. да н. э. хетамі або падпарадкаванымі ім плямёнамі сырадутнага працэсу. У спец. печах-домніцах пры тэмпературы 1100—1350 °С з жал. руды аднаўлялася жалеза, зерні якога спякаліся, утвараючы на дне печы порысты цестападобны кавалак *(крыцу)*. Пасля завяршэння працэсу печ ламалі, даставалі крыцу і некалькі разоў яе пракоўвалі для ўшчыльнення масы. Услед за хетамі металургіяй жалеза пачалі займацца плямёны, што жылі на тэр. Палесціны, Сірыі, Індыі, Егіпта. У Зах. Еўропе вытворчасць жалеза пачалася каля 1-га тысячагоддзя да н. э. ў Грэцыі і на Эгейскіх астравах. Далей на Пн яна пачала пашырацца не раней 8—7 ст. да н. э. З'яўленне і шырокае выкарыстанне жал. прылад працы спрыяла рэзкаму росту прадукцыйных сіл, павелічэнню прыбавачнага прадукту, эксплуатацыі чалавека чалавекам. Гэта прывяло да распаду патрыярхальна-радавых адносін, фарміравання класавага грамадства і дзяржавы.

На тэр. б. СССР першыя жал. вырабы адзначаны ў Закаўказзі (Самтаўрскі могільнік) і на Пд еўрап. часткі (зрубная культура), якія датуюцца канцом 2-га тысячагоддзя да н. э. Шырокае ўкараненне металургіі пачынаецца з 2-й чвэрці 1-га тысячагоддзя да н. э. і звязана са *скіфамі*, ад якіх плямёны, што жылі на Пд Беларусі, навучыліся атрымліваць жалеза.

На тэр. Беларусі Ж. в. пачаўся ў канцы 7—6 ст. да н. э. і працягваўся да 8 ст. н. э. Ён меў 2 перыяды: ранні жалезны век (да 4 ст.) і позні Ж. в. Жалеза тут выплаўлялі з балотнай руды ў невял. паўшарападобных печах-домніцах, якія знойдзены пры раскопках гарадзішчаў *Лабеншчына, Каньқі,* Свідна (Лагойскі р-н) і інш. У жалезаробчых майстэрнях жалеза здабывалі і выраблялі з яго рэчы і зброю. Найб. раннія знаходкі вырабаў з жалеза адносяцца да *мілаградскай культуры*, арэал якой уключаў б. ч. Палесся, Сярэдняе і Верхняе Паднянроўе, а таксама да плямён *паморскай культуры*, што насялялі цэнтр. раёны сучаснай Польшчы, басейны Зах. Буга і верхняй Прыпяці. На тэр. цэнтр. і паўн. Беларусі жал. вырабы паявіліся ў сярэдзіне 1-га тысячагоддзя да н. э. і належалі носьбітам *штрыхаванай керамікі культуры,* якія займалі тэр. цэнтр., паўн.-зах. Беларусі і ўсх. Літвы, і плямёнам *днепра-дзвінскай культуры*, што насялялі паўн. Беларусь, Смаленскую і Пскоўскую вобл. Расіі. Росквіт чорнай металургіі і шырокае ўкараненне жал. прылад працы ў гэтых плямён адносяцца да канца 1-га тысячагоддзя да н. э.— першых ст. н. э. У 3—2 ст. да н. э.— 2—5 ст. н. э. на тэр. пашырэння мілаградскай культуры і ва ўсх. частцы арэала паморскай культуры рассяляліся плямёны *зарубінецкай культуры*. Этнічныя характарыстыкі плямён эпохі ранняга Ж. в. дакладна не вызначаны. Носьбітаў культуры штрыхаванай керамікі і днепрадзвінскай можна аднесці да *балтаў*. Этнічная прыналежнасць мілаградскіх, паморскіх і зарубінецкіх плямён з'яўляецца дыскусійнай. Адны даследчыкі лічаць іх раннімі славянамі, другія — балтамі. У 2 ст. на тэр. бел. Падняпроўя і прылеглых да яго раёнаў паявіліся помнікі тыпу Абідні (гл. *Адаменка*), верхняя храналагічная мяжа якіх 5 ст. Лічыцца, што асн. кампанентам пры фарміраванні новай культуры быў зарубінецкі субстрат. У зах. Палессі ранні Ж. в. завершаны старажытнасцямі *вельбарскай культуры* (2—4 ст.), найб. яркім помнікам якой на Беларусі з'яўляецца могільнік Брэст — Трышын (гл. ў арт. *Брэст*). На думку некаторых сав. і польскіх археолагаў, у фарміраванні гэтай культуры разам з мясц. насельніцтвам прынялі ўдзел вядомыя па пісьмовых крыніцах германскія плямёны *готаў* і гепідаў. Славянскія помнікі на Беларусі з'явіліся ў 6 ст. Яны належаць ранне-слав. плямёнам *пражскай культуры*,

на тэр. Беларусі аб'ядноўваюцца ў яе мясц. варыянт і вядомы як помнікі культуры тыпу *Карчак.* У сярэднім Падняпроўі складваюцца старажытнасці ***калочынскай культуры***, якія шэраг даследчыкаў адносіць таксама да славянскіх. Паводле другой версіі, калочынскія помнікі належалі балтам. У 6—7 ст. у цэнтр., паўн. Беларусі і на Смаленшчыне вылучылася банцараўска-тушамлінская групоўка плямён ***(Банцараўская культура, Тушамлінская культура)***, генетычна звязаная з культурамі балцкіх папярэднікаў. З 8 ст. паступова пашыралася пранікненне на гэтыя тэрыторыі слав. культур і З выклікалі асіміляцыю мясц. балцкага насельніцтва і, відаць, прывялі да знікнення паселішчаў банцараўскай і тушамлінскай культур.

Археал. даныя сведчаць, што плямёны ранняга жал. веку на тэр. Беларусі знаходзіліся на стадыі развітога патрыярхату. Асн. адзінкай грамадства была вял. патрыярхальная сям'я, якая аб'ядноўвала 3—4 пакаленні бліжэйшых суродзічаў. Некалькі сем'яў стваралі род, які валодаў пэўнай тэрыторыяй з паселішчамі, участкамі зямлі, якую апрацоўвалі, і пашай для жывёлы. Разлажэнне першабытнаабшчынных адносін, сутыкненні паміж плямёнарусі жыццё на гарадзішчах, размешчаных у цяжкадаступных месцах, працягвалася да першых ст. н. э., на Пн — амаль да сярэдзіны 1-га тысячагоддзя. У далейшым асн. формай паселішчаў стала неўмацаванае ***селішча.*** З пашырэннем ворыўнага земляробства (гл. *Земляробства)* узнікла асобная гаспадарка малой сям'і. Аб'яднаныя не кроўнымі сувязямі, а агульнасцю гасп. жыцця, такія сем'і ўтваралі сельскую (суседскую, земляробчую) абшчыну, якая ва ўсх. славян назы-




ных кампанентаў, якія прадстаўлены помнікамі культуры тыпу *Лукі-Райкавецкай* на Пд і *доўгімі курганамі* на Пн. Магутныя міграцыйныя патокі славян (гл. *Міграцыя*) з Пд мі адбіліся на характары паселішчаў гэтага перыяду. Для вял. патрыярхальнай сям'і ўзводзілася ***гарадзішча***, якое мела абарончую сістэму валоў і равоў. На Пд Белавалася «мірам», «верв'ю», грамадой. Члены абшчыны былі звязаны кругавой парукай, узаемнай адказнасцю за вынікі гасп. дзейнасці, захаванасць і размеркаванне абшчыннай

уласнасці, падтрыманне норм традыцыйнага права. Склаліся ўмовы для фарміравання пастаяннай дружыны. Разлажэнне радавога ладу адбілася на рэлігіі слав. плямён. Побач з пакланеннем пакравіцелям роду ўсё шырэй распаўсюджваўся культ стыхій. У 6—9 ст. на тэр. Беларусі адбываўся пераход да класавага грамадства. У працэсе разбурэння родаплемянных сувязей усходнеслав. грамадства перайшло ад стадыі ваеннай дэмакратыі да феадалізму.

*Літ.:* 119, 255, 387, 634, 636, 772, 785, 797, 847, 902, 903, 904, 1052, 1313. *В. С. Вяргей, А. А. Егарэйчанка.*

**ЖА́ЛЬНІКІ,** магілы 13—18 ст., абазначаныя абкладкай круглаватай, авальнай ці чатырохвугольнай формы з камянёў, 1—2 валунамі ў галавах і ў нагах, каменнымі крыжамі або пакрытыя валунамі. Сярод мясц. насельніцтва вядомы як Паганскія магілкі, Халернік, Могліцы, Галодны могільнік. На камянях і каменных крыжах часта высечаны знакі (крыжыкі, крыжыкі на розных падстаўках ці пакрытыя дугой, краты, стрэлачкі, свастыкі і інш.). Пахаванні звычайна без інвентару, размешчаны шчыльна, галавой на З. У некаторых месцах (Бягомльшчына, Глыбоччына) традыцыя ставіць валуны ў галавах і ў нагах і абкладаць магілы камянямі захавалася да нашых дзён. Ж. распаўсюджаны ў асноўным на Пн Беларусі, Пскоўшчыне, ва Усх. Латвіі. Ж. з каменнымі крыжамі ёсць каля вёсак Бабруйшчына і Перавоз Глыбоцкага, Слабада Докшыцкага, Новае Сяло Сенненскага р-наў. *Л. У. Дучыц.*

**ЖАРСТВА́,** дробныя каменьчыкі, якія дабаўлялі ў гліну керамічнага посуду. Ж. атрымлівалі ў выніку моцнага перапальвання камянёў на агні, а потым апускання іх у халодную ваду. Ад рэзкага перападу тэмператур камяні распадаліся на кавалкі, якія потым дрыблі на зерняцёрках. Ж. дадавалі ў гліну з мэтай памяншэння яе тлустасці і павелічэння тэрмаўстойлівасці посуду. У якасці дамешак у гліну, акрамя Ж., дадавалі пясок або шамот, часам дамешкі рабілі камбінаваныя, г. зн. Ж. ў пэўных прапорцыях змешвалі з пяском. На тэр. Беларусі Ж. разам з расліннымі дамешкамі або тоўчанымі ракавінамі пачалі выкарыстоўваць у неаліце (5—3-е тысячагоддзі да н. э.); у бронзавым веку яна стала асн. відам непластычных дамешак у посудзе. Выкарыстанне Ж. прасочваецца ў кераміцы і больш позніх часоў, яе дадавалі ў гліну ганчары нават у пач. 20 ст.

*Літ.:* 777, 847. *В. Е. Собаль.*

**ЖЛО́БІНСКІ ЗА́МАК.** Існаваў у 15—17 ст. Размяшчаўся на правым беразе Дняпра, на адлегласці каля 100 м ад упадзення ў яго ручая Чорначка. У 15—16 ст. належаў Хадкевічам. Складаўся з уласна авальнага ў плане замка (60×50 м) і падзамка (130×60 м), выцягнутых па лініі Пн — Пд. Падзамак быў размешчаны на 1,5—2 м ніжэй за замкавы дзядзінец. Увесь комплекс узвышаўся на 3—4 м над прырэчнай жылой зонай сярэдневяковага паселішча. Ж. з. быў умацаваны земляным валам (цяпер знівеліраваны) і драўлянымі сценамі-гароднямі з вежамі і брамамі. У ліпені 1654 казакі ўкр. гетмана І. Залатарэнкі ўзялі штурмам і спалілі «замок Злобин». Пазней звесткі пра Ж. з. не сустракаюцца.

*Літ.:* 631, 1190. *М. А. Ткачоў.*



Верхні камень ад жорнаў 12 ст. з раскопак Мінска.



Ніжні камень ад **жорнаў** 12 ст. з Мінска.



**Жорны** 13 ст. з гарадзішча Рацюнкі Браслаўскага р-на.

**ЖМУДЗЬ,** балцкае племя, гл. *Жэмайты.*

**ЖО́РНЫ,** прылада для ручнога памолу зерня. Складаліся з 2 каменных дыскаў дыям. 35—50 см, таўшч. 4—10 см, з скразной адтулінай у цэнтры верхняга каменя, куды засыпалася зерне. Каб мука лепш сыпалася, паверхню ніжняга каменя рабілі трохі выпуклай, а верхняга ўвагнутай. Ніжні дыск меў адтуліну або паглыбленне для металічнага шпяня, ляжаў нерухома на стале або на спец. прыстасаванні. Верхні камень падвешваўся пры дапамозе металічнай або драўлянай порхліцы і прыводзіўся ў вярчальны рух штокам-палкай, ніжні канец якой замацоўваўся ў спец. адтуліне на верхнім камені. Верхні канец штока-палкі часам замацоўвалі ў столі або ў брусе гасп. пабудовы, дзе стаялі Ж. На Ж. атрымлівалі муку рознага памолу. Дыскі або паставы для Ж. рабілі з граніту, буйназярністага пясчаніку, вапняку, ракушачніку, сланцу і інш. У лясной паласе Усх. Еўропы Ж. паявіліся ў 8—9 ст., у пач. 2-га тысячагоддзя н. э. яны пашырыліся не толькі ў сельскай мясцовасці, але і ў горадзе, дзе разам з рамёствамі развівалася земляробства. Пры раскопках сельскіх паселішчаў і гарадоў найчасцей знаходзяць асобныя дэталі Ж. (паставы, металічныя і драўляныя порхліцы і інш.), драўляныя дэталі Ж. трапляюцца толькі на тых помніках, дзе захавалася дрэва (Брэст, Мінск). Каменныя паставы знойдзены ў Ваўкавыску (21), Мінску (19), Лукомлі (17), Навагрудку (10), Тураве (6), Брэсце (8). Пры археал. раскопках выяўлена 5 поўных камплектаў Ж. (Мінск, Навагрудак, Маскавічы — 12 ст.; Брэст, Рацюнкі — 13 ст.). І хаця майстэрняў па вырабу Ж. на тэр. Беларусі не выяўлена, можна сцвярджаць, што яны выраблялісяя мясц. майстрамі — жарнасекамі. Вядомы таксама сланцавы паставы з Турава (прывезены з г. Оўруч, дзе размешчаны радовішчы сланцу). Ж. выкарыстоўваліся да сярэдзіны 20 ст.

*Літ.:* 311, 582, 778. *Т. М. Каробушкіна.*

**ЖУЖЛЯ́НКА,** археал. помнікі каля в. Смык Асіповіцкага р-на, у сутоках рэк Жужлянка і Свіслач.

Г а р а д з і ш ч а. За 2 км на ПнЗ ад вёскі, на мысе, утвораным р. Свіслач і яе прытокам Жужлянкай. Пляцоўка трохвугольнай формы, памер 100×130 м. З боку поля ўмацавана 2 валамі (выш. ўнутранага 4 м, вонкавага 2 м) і 2 равамі. Абследаваў у 1925 А. Немцаў, даследавалі ў 1926 С. С. Шутаў і М. М. Улашчык, у 1958—63 Л. Д. Побаль, Э. М. Загарульскі і Ю. І. Драгун (ускрыў культурны

пласт пл. 140 м²). У ніжнім гарызонце знойдзены рэшткі ляпнога посуду культуры штрыхаванай керамікі ранняга жал. веку (3—4 ст.), у сярэднім — рэшткі керамікі культуры тыпу *Карчак* (6—7 ст.), верхні пласт належаў да эпохі Кіеўскай Русі (10—11 ст.).

С е л і ш ч а - 1. За 2 км на ПнЗ ад вёскі, на левым беразе р. Жужлянка, на Пд ад гарадзішча. Пл. каля 1 га. Абследавалі ў 1926 Шутаў і Улашчык, даследавалі ў 1958—63 Загарульскі, Побаль, Драгун. Сабрана ганчарная кераміка 10—11 ст. Адносіцца да эпохі Кіеўскай Русі.




Ляпны посуд (1—3), шкляныя пацеркі (4), спражка (5), наканечнік дзіды (6), нажы (7—8) з селішча-2 **Жужлянка.**

С е л і ш ч а - 2. На У ад гарадзішча, за валам. Адкрылі ў 1926 Шутаў і Улашчык, даследаваў у 1963—64 Драгун. Культурны пласт 0,4—0,8 м прасочаны на пл. каля 1,5 га у паўн. частцы. У 2 раскопах агульнай пл. 244 м² выяўлены 2 гарызонты. У ніжнім знойдзены гліняныя прасліцы і фрагменты раннеславянскіх гаршкоў культуры тыпу Карчак (6—7 ст.), у верхнім — шкляныя пацеркі, бісер, ганчарная кераміка эпохі Кіеўскай Русі.

*Літ.:* 320, 820, 1369.

*А. Р. Мітрафанаў.*

**ЖУ́КАВА,** гарадзішча *днепра-дзвінскай культуры* каля в. Жукава Гарадоцкага р-на. За 500 м на ПнЗ ад вёскі, на высокай гары. Умацавана валам і ровам. Пляцоўка авальная ў плане, памерам 70×45 м. Адкрыта ў 1873, даследавалі ў 1951 Л. В. Аляксееў, у 1955 В. Н. Кузняцоў. Знойдзены жал. серп і прабойнік, глінянае прасліца, фрагменты ляпных гладкасценных і штрыхаваных пасудзін, зерняцёрка.

*Літ.:* 895.

**ЖУКАВЕ́Ц,** курганны могільнік каля в. Жукавец Бярэзінскага р-на. За 2 км на ПдУ ад вёскі, на левым беразе р. Бярэзіна. Даследаваў 3 насыпы ў 1931 А. М. Ляўданскі. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў грунтавых ямах галавой на З. Касцякі абкладзены плашкамі і дошкамі. Выяўлены рэшткі жаночага галаўнога ўбору: венчыка з тонкай тканінай і бронзавымі залачонымі бляшкамі. Паводле абраду пахавання курганы блізкія да абкладзеных камянямі магіл 13—14 ст. Пуцілкавічы і *Хаўхоліца.*

*Літ.:* 718.

**ЖУРАВЕ́ЛЬ,** археал. помнікі каля в. Журавель Чэрыкаўскага р-на.

С т а я н к а *сожскай культуры* позняга мезаліту. За 1,5 км на ПдУ ад вёскі, на першай надпоймавай тэрасе правага берага р. Сож, ва ўрочышчы Мел. Выявіў у 1928 і даследаваў у 1934 К. М. Палікарповіч (раскапана 12 м²), у 1972—73 раскопкі праводзіў В. Ф. Капыцін (даследавана 130 м²). Культурны пласт на глыб. 0,5—0,6 м, часткова разбураны селішчам ранняга жал. веку. У межах раскопу выяўлены агнішча (памер 0,3×0,4 м, конусападобнае ў сячэнні) і майстэрня па першаснай апрацоўцы крэменю. Калекцыя крамянёвага інвентару налічвае больш за 6 тыс. знаходак, у т. л. 290 прылад працы. Сярод знаходак — тронкавыя наканечнікі стрэл, рэтушныя і двухгранныя разцы, канцавыя, паўкруглыя і двайныя скрабкі, вастрыі, праколкі, пласціны-ўкладышы, сякеркі з перахватам, вырабы з выемкамі, пласціны з апрацаваным рэтушшу краем і інш. Датуецца 8—6-м тысячагоддзямі да н. э.

К у р г а н н ы   м о г і л ь н і к. За 2,5 км на ПдЗ ад вёскі, за 1 км на ПдЗ ад стаянкі, на правым беразе р. Сож, паміж урочышчамі Мел і Чорны Бераг. 43 насыпы выш. 1—3 м, дыям. 6—8 м. Вядомы з 1873, абследаваў у 1977 А. К. Калечыц.

*Літ.:* 571, 572, 575, 921.

*В. Ф. Капыцін.*

**ЖУ́ЦАЎСКАЯ КУЛЬТУ́РА,** гл. *Прыбалтыйская культура.*

**ЖЫВЁЛАГАДО́ЎЛЯ** а р х а і ч н а я, працэс развядзення жывёлы чалавекам у стараж. часы для задавальнення сваіх патрэб. Ж.— наступны этап пасля прыручэння і *дамеснікацыі.* Археалогія дае 2 віды крыніц для вывучэння ранняй гісторыі Ж.— касцявыя рэшткі і прадметы матэрыяльнай культуры, прычым больш грунтоўныя вывады атрымліваюць пры аналізе касцявых матэрыялаў, чым пры аналізе рэчаў. Паводле археал. даных, прыручэнне буйной і дробнай рагатай жывёлы і свіней у Еўропе і Азіі адбылося 8—11 тыс. г. таму назад, коней — 6—8, трусоў, гусей і галубоў — 3, курэй — 4—5, качак — 3—4 тыс. г. таму назад. Самыя стараж. звесткі пра ўзнікненне Ж. адносяцца да канца 8-га — 1-й пал. 7-га тысячагоддзя да н. э. і звязаны з Балканскім паўвостравам і в-вам Крыт. Вытвараючая гаспадарка распаўсюдзілася ў 6-м тысячагоддзі да н. э. носьбітамі культур каранова I (Балгарыя), старчава (Югаславія), крыш (Румынія), кёраш (Венгрыя), у 7-м — пач. 5-га тысячагоддзя да н. э. ў плямён культуры керамікі імпрэса, помнікі якой размяшчаліся ўздоўж паўн. ўзбярэжжа Адрыятычнага і Міжземнага мораў. У апошняй чвэрці 6-га — 1-й пал. 5-га тысячагоддзя да н. э. плямёнамі *лінейнастужкавай керамікі культуры* Ж. прасунулася ў Цэнтр. Еўропу. Раннія этапы развіцця Ж. ў паўд. раёнах Усх. Еўропы вядомы па помніках буга-дняпроўскай культуры (2-я пал. 7-га—1-я пал. 5-га тысячагоддзя да н. э.), пад уплывам якой пачалося станаўленне вытвараючай гаспадаркі ў паўн. раёнах. Да пач. 5-га тысячагоддзя да н. э. першыя свойскія жывёлы паявіліся ў плямён *днепра-данецкай культуры,* дзе ў 2-й пал. 5-га — 1-й пал. 4-га тысячагоддзя да н. э. ўсталявалася развітая Ж. У паўн. лясной зоне паляванне і рыбалоўства дамініравалі да канца існавання культуры. На тэр. Беларусі найб. стараж. рэшткі свойскіх жывёл (бык, свіння, сабака) знойдзены пры раскопках неалітычных паселішчаў *Камень* Пінскага р-на (2-я пал. 5-га тысячагоддзя да н. э.). В. В. Шчаглова выказала меркаванне пра магчымасць мясц. даместкацыі тут тура ў раннім неаліце. У неаліце Ж. хутка пашыралася ў плямён, што жылі на Пд тэр. Беларусі — у басейнах Прыпяці і Сажа. У бронзавым веку Ж. як форма гаспадаркі вядома на ўсёй тэр. Беларусі. У раннім жал. веку найб. пашыранымі былі буйная і дробная рагатая жывёла, свінні і коні, але іх значэнне было не ўсюды аднолькавае. У сярэднявеччы Ж. складала аснову гаспадаркі насельніцтва Беларусі. Гал. месца ў ёй займала развядзенне буйной рагатай жывёлы мясц. парод, конегадоўля найб. развівалася на ПнУ Беларусі. На ПдЗ і ў цэнтр. яе частцы асн. цяглавай сілай былі валы. Усюды гадавалі свіней і авечак, развядзенне коз было больш характэрна для гар. гаспадарак. На працягу ўсяго сярэднявечча структура і характар Ж. змяніліся мала, яна мела ў асноўным мясны і мяса-малочны кірункі.

*Літ.:* 460, 603, 1372, 1374, 1376.

*Н. П. Александровіч.*

**ЖЫТЛО́,** ж ы л л ё, збудаванні, у якіх жыве чалавек, прызначаныя для засцярогі ад неспрыяльнага

ўздзеяння прыродных фактараў і арганізацыі побыту. На тэр. б. СССР вядомы з сярэдняга палеаліту. У асобных выпадках Ж. служыла першабытнаму чалавеку прыстанішчам, аховай ад драпежных жывёл і надакучлівых насякомых, абараняла агонь ад ветру і дажджу. Першапачаткова для Ж. чалавек выкарыстоўваў натуральныя прыродныя сховішчы — пячоры. Найб. раннімі штучнымі Ж. з'яўляліся ветравыя заслоны, павеці і выкапаныя ў зямлі ямы. Ветравыя заслоны — часовыя ўкрыцці для чалавека і агню, будавалі з драўляных жэрдак і галінак, магчыма, з каменных пліт. У мясцовасцях з халодным кліматам сховішчам служылі ямы, якія накрывалі жэрдкамі, галінкамі, скурамі жывёл, зямлёй. З гэтых прымітыўных форм развіваліся наступныя стадыі Ж.— наземнага і заглыбленага ў зямлю. Выразныя рэшткі стараж. Ж. адносяцца да мусцьерскага часу. Такое Ж. выяўлена на стаянцы Маладова-1 Чарнавіцкай вобл. Украіны і датуецца каля 44 тыс. г. таму назад. Гэта была авальная выкладка спецыяльна падабраных буйных касцей маманта пл. да 40 м² са слядамі 15 вогнішчаў. Дах рабілі з драўляных слупоў і жэрдак і накрывалі шкурамі жывёл. У верхнім (познім) палеаліце (40—12 тыс. г. таму назад) наземныя і паглыбленыя ў зямлю Ж. мелі закругленую і падоўжана-авальную форму. Іх узводзілі з драўляных слупоў, жэрдак, галінак, шкур і буйных касцей дзікіх жывёл (маманта, шарсцістага насарога і інш.). Вакол Ж. часта размяшчаліся ямы-кладоўкі, у цэнтры некаторых з іх выяўлены сляды ад вогнішчаў. На тэр. Беларусі рэшткі такіх 4 паўзямлянкавых Ж., складзеных з буйных, плоскіх і трубчастых касцей маманта, знойдзены на Бердыжскім паселішчы Чачэрскага р-на (гл. *Бердыж*). У эпоху мезаліту (9—5-е тысячагоддзі да н. э.) Ж. былі наземныя (*Стасеўка* Бабруйскага р-на) або заглыбленыя ў зямлю (*Новыя Грамыкі* Веткаўскага, *Берасценава* Аршанскага, *Берагавая Слабада* Рэчыцкага, *Лудчыцы* Быхаўскага р-наў і інш.). Яны мелі закругленую, авальную або васьмёркападобную форму, пл. ад 4 да 16 м². На падлозе некаторых Ж. выяўлены рэшткі вогнішчаў і ямкі дыям. 0,2 м ад драўляных слупоў, што падтрымлівалі дах. На стаянцы Берагавая Слабада вакол Ж. размяшчаліся гасп. ямы дыям. 0,5—2 м, у якіх знойдзены крамянёвыя наканечнікі стрэл, разцы, скрабкі, нуклеусы, пласціны і адшчэпы. У эпоху неаліту (5-е — канец 3-га тысячагоддзя да н. э.) на тэр. паўд.-ўсх. Беларусі плямёны *верхнедняпроўскай культуры* будавалі паўзямлянкавыя Ж., заглыбленыя ў зямлю на 0,2—0,8 м, круглай формы (на раннім этапе дыям. 2,2—3 м, пл. 4 м², на познім — адпаведна 2,5—3,8 м, пл. 12 м²) і авальнай памерам 3,5×3 м. Падлогі ў Ж. былі няроўныя, у паглыбленнях размяшчаліся адкрытыя агнішчы. На познім этапе неаліту ва ўсіх Ж. у падлозе знаходзяць ямы (дыям. 0,5 м, глыбіня да 0,6 м), якія маглі застацца ад слупоў, што падтрымлівалі дах або мелі гасп. ці рытуальнае прызначэнне. На адлеглласці да 10 м ад Ж. размяшчаліся гасп. ямы і агнішчы, а таксама месцы апрацоўкі крэменю ці вырабу



**Жытлы** прамавугольнай і круглаватай формы эпохі мезаліту. Рэканструкцыя.

керамічнага посуду. Плямёны *днепра-данецкай культуры*, што жылі ў басейнах Прыпяці, Случы, Гарыні і Бярэзіны, будавалі наземныя Ж. або крыху заглыбленыя ў мацярык пл. 10—50 м². На пачатку яны мелі авальную форму, памеры 3—4×3 м, пазней прамавугольную, памеры ад 3×2 да 8×7 м. Пасярэдзіне Ж. размяшчаліся адкрытыя агнішчы. У Бел. Панямонні выразных слядоў неалітычных Ж. не выяўлена. Мяркуюць, што яны былі наземныя, найчасцей чатырохвугольнай формы, зробленыя з жэрдак і невял. вертыкальна замацаваных у зямлі слупоў. Унутры Ж., звычайна ў невял. паглыбленнях, размяшчаліся адкрытыя агнішчы, якія пазней абкладалі па краях камянямі. Круглаватыя або авальныя Ж., аснову якіх складаў каркас з жэрдак, былі вядомы практычна на працягу ўсяго неаліту плямёнам *нарвенскай культуры* і *тыповай грабеньчата-ямкавай керамікі культуры*, што жылі на тэр. паўн. Беларусі. На стаянцы *Асавец* Бешанковіцкага р-на выяўлены і даследаваны Ж. канца неаліту. Гэта былі доўгія падпрамавугольныя пабудовы, аснову іх складаў двухсхільны дах, які трымаўся на шэрагу слупоў з расохамі і кладдзю. Унутры іх на памостах з пяску і кары знаходзіліся вял. адкрытыя агнішчы. Такія ж агнішчы часам былі па-за межамі Ж. У перыяд ранняга бронзавага веку (канец 3-га — сярэдзіна 2-га тысячагоддзя да н. э.) на тэр. Беларусі вядомы Ж. паселішчаў *сярэдненяпроўскай культуры*. Сляды іх наземных пабудоў выяўлены пры даследаванні паселішча *Ксяндзова гара* Быхаўскага р-на. У раскопе на глыб. 0,5—0,6 м прасочваюцца 14 слупавых ям дыям. 0,2—0,3 м, глыб. 0,3—0,4 м, 3 ямы для агнішчаў і 3 агнішчы, складзеныя з камянёў, 2 ямы авальнай формы памерамі 1,1×0,78×0,4 м і 1,2×0,7×0,4 м і слупавая яма дыям. 0,3 м, глыб. 0,3 м. На думку І. І. Арцёменкі, усе гэтыя ямы і агнішчы складалі адзіны жылы комплекс наземнай канструкцыі, але дакладна вызначыць планіроўку Ж. немагчыма. На паселішчы *Азярное* Любанскага р-на выяўлена наземная слупавая пабудова (магчыма, Ж.) прамавугольнай формы, даўж. каля 8 м. Тры паўзямлянкавыя Ж. выяўлены на паселішчы *Струмень* Кармянскага р-на: пабудовы прамавугольнай формы, памеры 4,75×2; 5,4×5,2; 3,25×3,5 м, заглыбленыя ў зямлю на 0,5—0,7 м, унутры іх знаходзіліся агнішчы. Побач з Ж. бессістэмна размяшчаліся гасп. ямы і адкрытыя вогнішчы. Ж. сярэдняга і позняга бронзавага веку на тэр. Беларусі пакуль не знойдзены. У жал. веку (канец 7—6 ст. да н. э.— 8—9 ст. н. э.) у сувязі з распадам патрыярхальна-радавых адносін і ўсталяваннем манагамных сем'яў на тэр. паўд. Беларусі ў плямён *мілаградскай культуры* былі пашыраны аднакамерныя Ж. Спачатку гэта былі паўзямлянкі слупавой канструкцыі круглаватай, авальнай або з закругленымі вугламі формы, заглыбленыя ў зямлю на 0,25—0,6 м, пл. да 50 м² (*Мілаград* Рэчыцкага, *Мохаў* Лоеўскага, *Рамель* Столінскага р-наў). Пазней асн. тыпам Ж. сталі наземныя або злёгку заглыбленыя ў зямлю пабудовы пл. 12—16 м². Яны, як правіла, мелі прамавугольную форму, слупавую канструкцыю, у цэнтры іх размяшчаліся слупы, якія служылі апорамі перакрыцця. Характэрнай асаблівасцю такіх Ж. быў прамавугольны, круглы або авальны выступ у адной са сцен або вуглоў. Плямёны *паморскай культуры* жылі

ў паўзямлянках або ў наземных Ж. зрубнай канструкцыі з агнішчамі ўнутры (на селішчы Кусічы каля в. *Агароднікі* Камянецкага р-на выяўлены рэшткі наземнага Ж. слупавой канструкцыі памерам 4,5×4 м, сценкі якога каля асновы былі абкладзены камянямі, з 2 агнішчамі ўнутры). У сярэдзіне 2 ст. да н. э. на тэр. рассялення мілаградскіх і паморскіх плямён пашырылася *зарубінецкая культура.* На раннім этапе для яе характэрны паўзямлянкі няправільнай прамавугольнай формы, заглыбленыя ў зямлю на 0,4—1 м, са злёгку нахіленымі сценамі і роўнай пясчанай падлогай. Каля Ж. звычайна размяшчаліся круглыя ці авальныя ў плане ямы-пагрaбы, у якіх хавалі запасы ежы. На познім этапе будавалі квадратныя або прамавугольныя ў плане наземныя Ж. і паўзямлянкі, заглыбленыя ў зямлю на 0,4—1 м, пл. 10—25 м$^2$, з каменнымі агнішчамі (*Чаплін* Лоеўскага р-на). У плямён *днепра-дзвінскай культуры* і *штрыхаванай керамікі культуры*, што насялялі Верхняе Падняпроўе, Верхняе і Сярэдняе Панямонне і Падзвінне, працэс распаду вял. патрыярхальных сямей адбываўся больш павольна, таму ў іх пераважалі шматкамерныя наземныя Ж. слупавой ці зрубнай канструкцыі, з глінянай абмазкай сцен. На раннім этапе (7 ст. да н. э.— 1 ст. н. э.) Ж. размяшчаліся па знешнім перыметры гарадзішча і ўяўлялі сабой доўгія шматкамерныя пабудовы слупавой канструкцыі пад агульным дахам, падзеленыя на некалькі (ад 3 да 6) жылых памяшканняў. У цэнтры такіх Ж. або каля процілеглай ад увахода сцяны размяшчаліся адкрытыя агнішчы з пласта пяску круглай, авальнай ці падкованападобнай формы, абкладзеныя па краях камянямі або валікам гліны (*Збаравічы, Лабеншчына* Мінскага, *Кублічы* Ушацкага, *Язна* Міёрскага р-наў). З 2 ст. н. э. паявіліся аднакамерныя Ж. памерам 3—4×4—5 м, якія знаходзіліся па ўсёй тэр. гарадзішча (*Новы Болецк* Гарадоцкага, *Паддубнікі* Міёрскага р-наў). Плямёны *пражскай культуры* (тыпу Карчак) свае Ж. размяшчалі найчасцей групамі або бессістэмна. Былі квадратнай або прамавугольнай формы (даўж. сцен ад 2,5—3 да 4—5 м), слупавой канструкцыі, заглыбленыя ў зямлю ад 0,2—0,3 да 1—1,2 м. Падлога земляная, часам абмазаная глінай або вымашчаная дошкамі. Унутры Ж., у далёкім ад увахода куце, ставілася печка-каменка або глінабітная печ. У 8—9 ст. (культура тыпу Лукі-Райкавецкай) плошча Ж. павялічылася, паявіліся паўзямлянкі зрубнай канструкцыі (*Хатомель* Столінскага р-на). Плямёны *банцараўскай культуры,* якія ў 6—8 ст. н. э. насялялі тэр. паўн. і цэнтр. Беларусі, будавалі паўзямлянкі зрубнай канструкцыі, заглыбленыя ў зямлю на 0,2—0,8 м, і наземныя Ж. слупавой канструкцыі з адкрытымі агнішчамі круглай або авальнай формы, якія размяшчаліся бліжэй да цэнтра, або печамі-каменкамі авальнай і круглай формы, што размяшчаліся найчасцей у далёкім ад увахода куце. Плошча Ж. складала ад 7—9 да 18—20 м$^2$, падлога ў пабудовах звычайна земляная, зрэдку драўляная. У плямён *кіеўскай культуры*, якія ў 2—5 ст. насялялі тэр. ўсх. Гомельшчыны і паўд. Магілёўшчыны, існавалі 2 тыпы Ж.: наземныя пабудовы з адкрытымі агнішчамі і прамавугольныя ў плане паўзямлянкі слупавой ці зрубнай канструкцыі, заглыбленыя ў зямлю на 0,4—1,2 м, пл. 8—24 м$^2$. У гасп. комплекс уваходзілі асобна збудаваныя агнішчы і ямы-пагрaбы (*Адаменка, Новы Быхаў, Тайманава* Быхаўскага р-на). Плямёны *калочынскай культуры*, што жылі на тэр. паўд. Беларусі ў 5—7 ст., будавалі аднакамерныя чатырохвугольныя ў плане паўзямлянкі зрубнай або слупавой канструкцыі, часта з цэнтр. апорным слупом, з адкрытымі агнішчамі, часам з печамі-каменкамі (*Калочын, Шчаткава* Бабруйскага р-на, *Нісімкавічы* Чачэрскага р-на).

У апошняй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. ва ўсх. славян, у т. л. і на тэр. Беларусі, паскорылася развіццё прадукцыйных сіл. Адбылося аддзяленне рамяства ад сельскай гаспадаркі, хутка развіваліся кавальскае, ювелірнае, касцярэзнае рамёствы, ганчарства, апрацоўка скуры, дрэва і інш. Гэта садзейнічала ўзнікненню і хуткаму росту гарадоў. У культурным пласце даследаваных гарадоў выяўлены рэшткі стараж. драўлянай забудовы (у Брэсце 223, Віцебску 170, Мінску 130, Полацку больш за 70, у Гродне, Слуцку, Слоніме каля 50 пабудоў). Каля палавіны выяўленых пабудоў адносяцца да Ж. Асноўным тыпам Ж. ў гарадах 9—13 ст. было драўлянае наземнае аднакамернае збудаванне зрубнай канструкцыі. Паўзямлянкі зрубнай або слупавой канструкцыі, заглыбленыя ў зямлю да 1 м, памерам 3,4×3,4 м выяўлены ў Навагрудку, Ваўкавыску, Гомелі і Мінску. Даследчыкі лічаць, што гэты тып Ж. занесены на тэр. Беларусі перасяленцамі з паўд. раёнаў (магчыма, з Валыні). Найчасцей Ж. ўзводзілі з хваёвых (зрэдку яловых) бярвён таўшч. 16—18 см (Брэст, Слуцк), 18—20 см (Мінск), 18—22 см (Віцебск, Полацк), што было абумоўлена асаблівасцямі клімату. Сцены пабудоў даўж. ад 3,6 да 6 м, зрэдку 7—8 м, шыр. ад 3,8 да 4,2 м. Зрубы складаліся з вянкоў (11—12), якія клалі адзін на адзін. Бярвёны зверху мелі паз на шчыльнасць мацавання, у які для ўцяплення сцен закладаўся балотны мох. Да 17 ст. панавала тэхніка рубкі «ў чашку» (ці «ў абло»), якая высякалася зверху. Астанцы вуглоў абсякалі на даўжыню, роўную таўшчыні сцяны, што прадухіляла прамярзанне вуглоў. Звычайна Ж. будавалі на фундаментах, у якасці якіх выкарыстоўвалі падкладкі з абрубкаў бярвён пад вуглы або сцены зруба. Часта Ж. ўзводзілі на рэштках папярэдніх пабудоў. Зрэдку ніжні вянок рабілі крыху большага дыяметра за астатнія вянкі, з дубу або неакоранай елкі. Усе Ж. 12—13 ст. у гарадах мелі дашчаную падлогу на пераводзінах, якія ўсякаліся ў сцены зруба на выш. 2—3-га вянка. Канцы масніцы зацісkaліся паміж вянкамі зруба (Віцебск) або ўпіраліся ў сцены зруба тарцамі (Брэст, Слуцк). У Ж. Брэста, Віцебска, Полацка, Мінска і інш. захаваліся дзвярныя праёмы — вырубка-заход, зробленая ў чвэрць таўшчыні бервяна выш. 70—80 см. У вуглу праёма рабілі падпятнік пад дзвярны шып, па баках праёма ставілі вушакі з бярвён або дошак. Дзвярныя палотны памерам 70—80×90—130 см, зробленыя з 2—3 дошак, замацаваных планкамі ў шліцы, знойдзены ў Брэсце, Віцебску, Мінску, Слуцку. Печы Ж. 12—13 ст. глінабітныя, на слупавых апечках, чарэнь печы рабілі з гліны, часам выкладалі каменьчыкамі або чарапкамі ад посуду. Вокны — невял. праёмы выш. у адно бервяно. Часам яны застаўляліся дошчачкай, якая рухалася па рамцы з планак, прымацаваных да праёма. Дах Ж. ў гар. пабудовах звычайна быў двухсхільны. Звужаючыся ўгару, ён утвараў трохвугольны шчыт — «закот», які набіраўся з лемягоў, па баках да іх мацаваліся какошыны (курыцы). На крукі какошын прымацоўвалася дошка-закрыліна, у якую тарцамі ўпіраліся дошкі, што пакрывалі дах, са звалокай, упушчаных у адтуліны паміж лемягоў. Звычайна плошча Ж. ў 12—13 ст. складала 9—25 м$^2$. Спецыфічныя рысы домабудаўніцтва ўласцівы Навагрудку, дзе выяўлены двухкамерныя Ж. пл. 70—75 м$^2$ і 120 м$^2$, якія мелі шкляныя шыбы дыскападобнай формы. Сцены некаторых Ж. былі атынкаваныя, а ў асобных выпадках размаляваныя фрэскамі. У 12—13 ст. у Ж. багатых гараджан будавалі печы з комінамі. Ж. 14—16 ст. мелі большую плошчу (у Віцебску на Верхнім замку выяўлены Ж. пл. 36—42 м$^2$). Часам у Ж. рабілі падклецце. Як і раней, Ж. будавалі з хваёвых бярвён, масніцы падлогі рабілі з масіўных аполкаў, у якасці фундаментаў ужывалі падкладкі з абрубкаў бярвён, штандары, дылі. Пры будаўніцтве печаў спачатку выкарыстоўвалі пасудападобную, квадрыфольную (чатырох-

пялёсткавая) кафлю, з 16 ст.— каробчатую. Столь у Ж. 16 ст. скляпеністая. Дах Ж. найчасцей пакрывалі тарцiцамі і гонтай, зрэдку керамічнай дахоўкай, якая была больш уласціва для мураванага будаўніцтва. Рэшткі мураванага будынка грамадзянскага прызначэння выяўлены на Верхнім замку ў Віцебску (т. зв. палац Альгерда). Нервюры яго скляпенняў выкладзены з цэглы стрэлападобнай формы, а падлога — з керамічных плітак у форме выцягнутага шасцівугольніка. З 2-й пал. 14 ст. вядомы двухпавярховыя драўляныя Ж., са знешняга боку якіх былі крытыя галерэі. Яны ўяўлялі сабой *рамачна-каркасную канструкцыю.* Рэшткі іх выяўлены пры раскопках у Віцебску і Мінску. У 17 ст. таксама пераважалі аднакамерныя зрубныя пабудовы пл. да 30—45 м². Пад аснаваннем часам рабілі гідраізаляцыйную падушку з гліны або жвіру. У 17—18 ст. трапляюцца каменныя падмуркі, зрэдку былі вядомы ў вёсках. Печы ў Ж. рабілі з цэглы, у іх аздабленні выкарыстоўвалі тэракотавую, паліваную, паліхромную каробчатую кафлю. У сценах Ж. рабілі чатырохвугольныя вокны са шклянымі шыбамі. Пачынаючы з 14—15 ст. функцыю Ж. выконвалі *палацы*, з 2-й пал. 16 ст.— замкі.

*Літ.:* 79, 119, 232, 271, 385, 424, 425, 460, 479, 619, 702, 703, 772, 785, 789, 847, 848, 903, 1196, 1289, 1313, 1346, 1347. *В. В. Гетаў, А. Г. Калечыц, Л. У. Калядзінскі, М. М. Крывальцэвіч, У. П. Ксяндзоў, М. М. Чарняўскі.*

**ЖЭЛЯДЗЬ**, курганны могільнік каля в. Жэлядзь Астравецкага р-на. За 2 км на ПнУ ад вёскі, на беразе р. Струна. У 1895 Ф. В. Пакроўскі раскапаў 12 моцна пашкоджаных насыпаў. Некаторыя з іх мелі каля падэшвы каменныя вянкі. Пахавальны абрад — трупаспаленне па-за межамі пахавання. Рэшткі крэмацыі ў большасці насыпаў змяшчаліся на ўзроўні стараж. гарызонту глебы, у 3 выпадках — у грунце. Пад пахаваннямі былі падсцілкі з белага пяску, вуголля ці вугліста-чорнай зямлі. У 2 насыпах выяўлены каменныя канструкцыі (у выглядзе чашы і ў форме кольца), у адным — 2 абгарэлыя бервяны, што ляжалі паралельна на адлегласці 1 м. Пахавальны інвентар: бронзавыя і жал. арбалетападобныя фібулы, жал. спражкі (круглыя і авальныя), сярэбранае і бронзавае кольцы, жал. наканечнік кап'я, злiткі бронзы і шклопадобнай масы (верагодна, пацерак). Могільнік належаў балцкаму насельніцтву. Датуецца 5—7 ст.

*Літ.:* 914. *Я. Г. Звяруга.*

**ЖЭМАЙТЫ**, жамайты, балцкае племя, пазней саюз плямён, стараж. насельніцтва правабярэжжа ніжняга Нёмана, вярхоўяў рэк Мініі, Юры, Дубісы, Вянты, Шушвы. Уваходзілі ў групу т. зв. лета-літоўскіх плямён. Этымалогія назвы Ж. звязваецца з аднайменнай гісторыка-геаграфічнай і этнаграфічнай вобласцю на тэр. сучаснай Літвы — Жэмайцiяй (літ. Žemaitija; старабел. Жамойць, Жэмойць; старажытнарус. Жмудь; польск. Żmudź) і ўзыходзіць да балцкіх слоў žemas, žemutinis (ніжні, нізкі, нізкае месца; параўнай з суседняй тэрыторыяй aukštas, aukstis — высокі, высокае месца). У нямецкіх (прускіх) і зах.-еўрап. сярэдневяковых гіст. крыніцах на лацінскай мове Ж. і Жэмайція вядомы пад назвамі самагіты і Самагіція (Samogitia). З'яўленне этнаспецыфічных археал. старажытнасцей Ж. даследчыкі П. Кулікаўскас, Р. Кулікаўскене, А. Таўтавічус, В. В. Сядоў адносяць да 2-й пал. 1-га — пач. 2-га тысячагоддзя н. э. Тыповыя для Ж. грунтавыя могільнікі мелі характэрны інвентар (сякеры, мячы, пацеркі, грыўні, амулеты, бранзалеты). Нябожчыкаў клалі галавой на ПдЗ (жанчыны) і ПнУ (мужчыны). Пераважаў язычніцкі абрад трупапалажэння, у 9—11 ст. чаргаваўся з трупаспаленнем. Характэрныя паселішчы — селішчы, радзей гарадзішчы. Асн. гасп. заняткі — жывёлагадоўля, паляванне, збіральніцтва. З 13 ст. землі Ж. намінальна ўваходзілі ў склад ВКЛ у якасці асобнага княства, аднак палітычна залежалі ад Тэўтонскага ордэна. Некаторыя групы Ж., ратуючыся ад крыжакоў, мігрыравалі на тэр. суседніх Аўкштайціі, Беларусі, Польшчы, а на іх землі перасяліліся часткі інш. балцкіх плямён (куршы, скальвы, земгалы), якія паступова асіміляваліся. У пач. 15 ст. Ж. вызваліліся з-пад улады тэўтонаў і фактычна ўвайшлі ў ВКЛ. Мелі асобнае Жэмайцiйскае (Жмудскае) кн., пазней староства з цэнтрам у г. Кейданяй, з 16 ст.— Расейняй. З 1413 (афіцыйная дата прыняцця Ж. хрысціянства) да сярэдзіны 16 ст. былі паступова хрысціянізаваны літ., польскімі і бел. каталіцкімі місіянерамі. Разам з *аўкштайтамі* і некаторымі інш. групамі зах. і ўсх. балтаў Ж. склалі літ. народнасць (потым нацыю), у межах якой доўгі час захоўвалі свае этнагр. асаблівасці, дыялект, асобную зямляцкую самасвядомасць. *І. У. Чаквін.*



**Жэтон лічыльны** 16— пач. 17 ст. Ганса Краўвінкеля. Нюрнберг.

**ЖЭРЛІЦА,** старажня, традыцыйная рыбалоўная снасць для лоўлі драпежнай рыбы, пераважна шчупакоў. Драўляная рагулька з прымацаваным і абматаным вакол яе шнуром на канцы з грузілам і кручком, на які насаджвалі жывую рыбку-прынаду. Ж. прывязвалі да куста або калка, убітага ў дно вадаёма; зімой устанаўлівалі ў палонках. Ж. 13 ст. (даўж. 8 см) знойдзены пры раскопках у Полацкім Верхнім замку.

**ЖЭТОН ЛІЧЫЛЬНЫ.** Выкарыстоўваўся ў якасці фішак для *ліку на лініях* грашовых сум. Выраблялі звычайна з медзі ці бронзы, зрэдку серабра. У 15 ст. былі памерамі каля 37 мм, у 16—17 ст. 24—27 мм, у 18 ст.— 17—19 мм. З 15 ст. завозілі ў Рэч Паспалітую камплекты Ж. л. (30—50 шт.) з Нюрнберга і Брандэнбурга. У 16 ст. пачаўся выраб індывідуальных Ж. л. На жэтоне адбіваліся герб або манаграма ўладальніка і надпіс-сентэнцыя. Вядомы Ж. л. канца 16 — пач. 17 ст. падскарбіяў літоўскіх Яна Глябовіча, Лаўрына Войны, Андрэя Завішы, Ераніма Валовіча, знойдзеныя ў Браславе, Віцебску, Гродне. Па некаторых звестках, Ж. л. выраблялі ў сярэдзіне 16 ст. на *Віленскім манетным двары.*

*Літ.:* 1648а, 1651а, 1655а, 1731а. *І. І. Сінчук.*

# З

**ЗАБАР'Е,** курганныя могільнікі каля в. Забар'е Вілейскага р-на.

Курганны могільнік-1. За 1,5 км на Пн ад вёскі, злева ад дарогі ў в. Карпавічы, у лесе, ва ўрочышчы Курганы. 97 насыпаў дыям. 4—10 м, выш. 0,5—1,3 м. Каля некаторых насыпаў прасочваюцца апоўзлыя раўкі ці авальныя ў плане ямы. Амаль чацвёртая частка курганоў пашкоджана. У 1892 Ф. В. Пакроўскі даследаваў 4 курганы. У адным была толькі праслойка вугалю на ўзроўні гарызонту, у двух — праслойкі вугалю (у адным з дробнымі перапаленымі касцямі) і на гарызонце, і ў насыпе. Пад насыпам кургана з перапаленымі касцямі — яма дыям. каля 0,4 м, глыб. каля 0,5 м, запоўненая раздробленымі касцямі каня, якія былі накрыты перавернутым гаршком, побач з ім — жал. спражка. Сярод касцей траплялiся маленькія бронзавыя

зліткі. У чацвёртым кургане пахаванне па абраду трупапалажэння на гарызонце галавой на ПнЗ. На лобнай косці ляжала маленькае бронзавае кольца, каля правага бядра — фрагмент керамікі.

Курганны могільнік-2. За 1,1 км на З ад могільніка-1, у лесе. 12 расплывістых насыпаў дыям. 6—10 м, выш. 0,5—0,9 м. Выявіў і абследаваў у 1985 Я. Г. Звяруга.

*Літ.:* 911. *Я. Г. Звяруга.*

**ЗАБО́Р'Е,** курганныя могільнікі крывічоў каля в. Забор'е Глыбоцкага р-на.

Курганны могільнік-1. За 800 м на ПнЗ ад вёскі. 40 курганоў добрай захаванасці выш. 0,8—3,2 м, дыям. 5—12 м. У 1974 Г. В. Штыхаў раскапаў 1 курган. Знойдзены шкілет, арыентаваны галавой на З, жал. нож, віты бронзавы бранзалет з завязанымі канцамі, ганчарны гаршчок. У 1981 даследавала Л. У. Дучыц.

Курганны могільнік-2. За 1 км на ПнЗ ад вёскі, злева ад дарогі ў в. Юзухава, ва ўрочышчы Зялёнка. 28 курганоў выш. 0,8—3,2 м, дыям. 5—12 м. Абследаваў у 1972 М. А. Ткачоў. Раскопкі не праводзіліся. Датуюцца 10 ст.

*Літ.:* 1355. *М. А. Ткачоў.*

**ЗАВІТНЕ́ВІЧ** Уладзімір Зянонавіч [2(14).4.1853, в. Ліцвяны, цяпер Уздзенскі р-н — сакавік 1927], беларускі археолаг і гісторык. Прафесар (1904). Скончыў Пецярбургскую духоўную акадэмію (1878). Працаваў настаўнікам у Варшаве, з 1884 у Кіеўскай духоўнай акадэміі. Вывучаў стараж.-рус. гісторыю. У 1885—92 даследаваў каля 700 пахаванняў дрыгавічоў у 82 курганных могільніках басейнаў Прыпяці, Дняпра, Бярэзіны, вярхоўяў Нёмана. Характэрным для дрыгавічоў лічыў пахавальны абрад трупапалажэння на гарызонце, а выяўленыя ў падкурганных ямах пахаванні адносіў да драўлян і палян, што перасяляліся на землі дрыгавічоў. Вызначыў граніцы расселення дрыгавічоў: на Пд па правым беразе Прыпяці, на ПдЗ па водападзеле Прыпяці і Буга, на ПнЗ — вярхоўе Нёмана, на ПнУ — па мяжы Полацкага і Тураўскага княстваў, на У — па Дняпры. Вывады З. былі выкарыстаны ў працах А. С. Грушэўскага, Я. Ф. Карскага, А. А. Спіцына і інш. археолагаў.

*Тв.:* Область Дреговичей как предмет археологического исследования // Труды Киевской духовной Академии. 1886. Кн. 8; Из археологической экскурсии в Припятское Полесье. Киев, 1890; О курганах Минской губернии // Календарь Северо-Западного края на 1890 г. М., 1890; Вторая археологическая экскурсия в Припятское Полесье. Киев, 1891; Археологические разыскания в бассейне реки Березины // Отчёт Археологической комиссии за 1892 г. Спб., 1894. *У. Дз. Будзько.*

**ЗАВІ́ША** Ян (Іван Францавіч; 1852, б. маёнтак Кухцічы, цяпер Уздзенскі р-н — 1887), беларускі і польскі археолаг. Скончыў Мінскую гімназію. З 1868 падарожнічаў з мэтай фіксацыі помнікаў археалогіі, праводзіў раскопкі. Даследаваў земляны вал, гарадзішча і курганы каля в. Чурылава, гарадзішчы каля в. Кухцічы (1868—69. Уздзенскі р-н), ва ўрочышчы Марачоўшчына каля в. Косава (1871—72, Івацэвіцкі р-н), гарадзішча і каменныя магілы каля воз. Свіцязь. У 1870-я г. выявіў і апісаў стаянкі каменнага веку каля в. Валеўка (Навагрудскі р-н). На Міжнар. кангрэсах археолагаў у Венецыі (1871) і Будапешце (1876) выступаў з дакладамі па праблемах вывучэння каменнага веку. На пасяджэнні аддзела археалогіі ў Кракаўскай АН (1878) прапанаваў выданне навук. прац па старажытнасці Польшчы, у т. л. і Беларусі.



**Завушніцы** 11—12 ст. Гродна.

*Літ.:* 35. *Г. А. Каханоўскі.*

**ЗАВО́ЗЕРЦЫ,** стаянка эпохі мезаліту каля в. Завозерцы Смаргонскага р-на. На пясчаным павышэнні паўн.-ўсх. берага воз. Рыжае. Выявіў і абследаваў у 1984 М. М. Чарняўскі. Памер 40×80 м. Культурны пласт да 0,5 м. Знойдзены крамянёвыя вырабы: мікраліты, скрабкі, рэтушаваныя адшчэпы і пласцінкі, нуклеусы, ганчарная кераміка позняга сярэднявечча. Датуецца 7—6-м тысячагоддзямі да н. э.

**ЗАВУЖАЛЬ,** археал. помнікі каля в. Завужаль Рэчыцкага р-на.

Гарадзішча *мілаградскай культуры, зарубінецкай культуры* і эпохі Кіеўскай Русі. На паўд. ускраіне вёскі, на беразе Дняпра, побач з могілкамі. Выш. пляцоўкі над наваколлем каля 15 м. Мясц. назва Гарадок. Пляцоўка квадратная, памер 75×75 м. Умацавана з З і У ярамі, з боку поля валам выш. 1,5—3 м, даўж. каля 100 м. Вядома з канца 19 ст., абследавалі ў 1958 В. М. Мельнікоўская, у 1964 Л. Д. Побаль, у 1976 Г. В. Штыхаў. Культурны пласт 0,3—0,4 м. Выяўлены фрагменты ляпнога посуду і ганчарная кераміка (у верхняй частцы пласта).

Курганны могільнік. За 1 км на ПдЗ ад гарадзішча. Было 70 насыпаў. У 1980 В. З. Завітневіч даследаваў 16 курганоў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце галавой на З. У 3 насыпах выяўлены агнішчы на мацерыку, 2 — кенатафы. Знойдзены шкляныя («лімонка», 6 цыліндрычных пасярэбраных), сердалікавыя (біпірамідальныя), хрусталёвыя (шарападобныя) пацеркі, 3 падвескі, з якіх адна — дырхем Наср ібн Ахмада [914—943] з Самарканда, другая — міліярысій Канстанціна VII і Рамана II [945—959]. Датуецца 10—11 ст.

*Літ.:* 379, 1572. *Г. В. Штыхаў.*

**ЗАВУШНІЦЫ,** жаночае, радзей мужчынскае ўпрыгожанне, якое носяць у праколатых мочках вушэй. Вядомы з бронзавага веку. У пач. 2-га тысячагоддзя замест З. часта насілі пярсцёнкападобныя скроневыя кольцы (іншы раз з нанізанымі пацеркамі). Вядомы З. з курганных могільнікаў Грошаўка, гарадзішча *Чаплін* і інш. У летапісах згадваюцца З. кіеўскага кн. Святаслава, упрыгожаныя рубінам і жэмчугам. У Гродна знойдзены залатыя З. 11—12 ст. З 16 ст. былі распаўсюджаны З. даўж. 3,5—6,5 см у форме пытальніка з каменнымі, бронзавымі, бурштынавымі і шклянымі пацеркамі зялёнага, жоўтага, чырвонага, сіняга колераў. Каб змацаваць пацеркі, стрыжань абвівалі дротам, кончык якога завязвалі пятлёй (Навагрудак, Гарадоцкі р-н і інш.).

*Літ.:* 1067. *Л. У. Дучыц.*

**ЗАГАВА́ЛІНА,** гарадзішча *днепра-дзвінскай культуры* і *банцараўскай культуры* каля в. Загаваліна Ушацкага р-на. За 1 км на З ад вёскі, на высокім узгорку. Пляцоўка авальная, памер 40×30 м, схілы стромкія. Вядома з 1873. Даследаваў у 1966 К. П. Шут (ускрыта 200 м²). Культурны пласт у цэнтры пляцоўкі 0,2—0,3 м, па краях 1—1,2 м. Мае 2 гарызонты.

У ніжнім гарызонце выяўлены сляды наземнага жытла слупавой канструкцыі з каменнымі агнішчамі, знойдзены абломкі печаў-домніц і шлакі, жал. сярпы, нажы, шылы, іголкі, дроцік, бронзавыя спіралькі, бляшкі, касцяныя праколкі, каменныя паліраваныя

сякеры, таўкачы, слабапрафіляваныя гаршкі і пасудзіны слоікападобнай формы, упрыгожаныя ямкавымі паглыбленнямі, скразнымі адтулінамі ніжэй краю венчыка, наразнымі лініямі і насечкамі па верхняй частцы пасудзін. У верхнім гарызонце знойдзены абломкі гладкасценных пасудзін.

Ніжні гарызонт адносіцца да днепра-дзвінскай культуры, верхні — да банцараўскай.

*Літ.:* 399, 1046, 1365.
*А. Р. Мітрафанаў.*

**ЗАГАРТО́ЎКА,** від тэрмічнай апрацоўкі металу, які заключаецца ў награванні прадмета, потым хуткім яго ахаладжэнні. З. сталі, напр., утварае ў яе структуры мартэнсіт, які надае металу высокую цвёрдасць. Выкарыстоўваецца са стараж. часоў, больш пашырана ў перыяд сярэднявечча. На тэр. Беларусі З. практыкавалі майстры 3—5 ст., шырока выкарыстоўвалі кавалі эпохі Кіеўскай Русі і ВКЛ для апрацоўкі стальных і камбінаваных жалезна-стальных прылад працы, зброі і гасп. вырабаў.

*Літ.:* 276, 277, 558.

**ЗАГАРУ́ЛЬСКІ** Эдуард Міхайлавіч (н. 18.12.1928, г. Тула), беларускі археолаг, гісторык. Д-р гіст. навук (1984). Скончыў Маскоўскі дзярж. ун-т (1953). З 1953 у Ін-це гісторыі АН БССР, з 1962 у БДУ (з 1986 дэкан гіст. ф-та). Даследаваў стараж. Мінск, Рагачоў, Заслаўе, *Кісцяні, Копысь, Свіслач, Стрэшын* і інш., курганныя могільнікі і замкі перыяду ранняга сярэднявечча. У час раскопак Мінска (1958—61) вызначыў агульную планіроўку горада 11—13 ст., даследаваў яго абарончыя ўмацаванні і забудову, зрабіў рэканструкцыю ўсх. часткі замчышча. Пры раскопках гарадзішча *Вішчын* даследаваў сістэму абарончых збудаванняў замка і жылых пабудоў, выявіў унікальны скарб залатых і сярэбраных упрыгожанняў і сярэбраных грыўняў 2-й пал. 12—1-й пал. 13 ст. (гл. *Вішчынскі грашова-рэчавы скарб*). Адзін з аўтараў «Гісторыі Беларускай ССР» (1961), «Гісторыі Беларускай ССР» (т. 1, 1972), «Гісторыі БССР» (ч. 1, 1981), падручнікаў «Гістарычнае краязнаўства Беларусі» (1980) і «Гісторыя БССР» (1989).

*Тв.:* Древний Минск. Мн., 1963; Археология Белоруссии. Мн., 1965; Древняя история Белоруссии: Очерки этнич. истории и материальной культуры (до IX в.). Мн., 1977; Возникновение Минска. Мн., 1982.

**ЗАГО́Р'Е,** паселішча каменнага і бронзавага вякоў каля в. Загор'е Чачэрскага р-на. За 3 км на ПнЗ ад вёскі, на надпоймавай тэрасе левага берага р. Сож, ва ўрочышчы Жавынец. Выявіў у 1927 К. М. Палікарповіч, даследавала ў 1978 А. Г. Калечыц, раскапана 130 м². Культурны пласт 0,2 м.

Знойдзены і сабраны з разбураных участкаў помніка крамянёвыя скрабкі, разцы, прылады, якімі секлі, праколкі, пласцііністыя наканечнікі стрэл, трапецападобныя прылады, нуклеусы, адходы крамянёвай вытворчасці, фрагменты глінянага ляпнога посуду, упрыгожанага адбіткамі грэбеня, ямкавымі і лапчастымі адбіткамі, нарэзкамі і інш.

*Літ.:* 479, 863.
*А. Г. Калечыц.*

**ЗАГО́РЦЫ,** гарадзішча *днепра-дзвінскай культуры.* Гл. *Сцяпанавічы.*

**ЗАГО́РЫНЫ,** група археал. помнікаў каля в. Загорыны Мазырскага р-на.

Паселішча. За 300 м на ПдУ ад вёскі, каля схілу карэннага берага,



Э. М. Загарульскі.

на паверхні 1-й надпоплаўнай тэрасы р. Прыпяць. Даўжыня ўздоўж берага 300 м, шырыня 120 м, вышыня над поплавам ракі 4 м. Выявіў і даследаваў у 1962 У. Ф. Ісаенка. Культурны пласт складаецца з верхняга і ніжняга гарызонтаў. У ніжнім гарызонце (0,3 м), які залягаў пад гумусаваным пластом глебы, знойдзена 57 крамянёвых прылад працы і зброі (мікраліты, скрабкі, нажы, наканечнікі стрэл), 30 фрагментаў ляпнога вастрадоннага посуду. Адносіцца да позняга мезаліту і ранняга неаліту (7—4 тыс. да н. э.). У верхнім гарызонце (0,2 м), які залягаў у гумусаваным пласце, знойдзены крамянёвыя прылады працы і рэшткі ляпнога посуду (400 расшчэпленых крамянёў і абломкі ад 9—11 ляпных гаршкоў). Адносіцца да позняга неаліту і бронзавага веку (канец 3-га — 2-е тыс. да н. э.). Сустракаюцца рэшткі могільніка шнуравой керамікі Палесся культуры.

Гарадзішча эпохі Кіеўскай Русі. За 600 м на З ад вёскі, на высокім беразе р. Прыпяць. Памер пляцоўкі 75×75 м. Паўднёвая яе частка на 2 м вышэй за паўночную. З ПнУ гарадзішча — абрыў вышынёй 25—30 м да старыцы ракі, з боку поля — дугападобны роў глыбінёй 2 м, шырынёй 15 м і вал вышынёй 2—4 м, шырынёй 10 м. Абследаваў у 1976 Ісаенка. У агаленнях прасочаны культурны пласт да 1 м. Знойдзены рэшткі посуду 12—13 ст., касцей чалавека.

*Літ.:* 460.
*У. Ф. Ісаенка.*

**ЗАДВО́Р'Е,** стаянка позняга бронзавага веку каля в. Задвор'е Ляхавіцкага р-на. За 1 км на ПнУ ад вёскі, 150 м на У ад дарогі на Ляхавічы, на валападобным павышэнні выступу тэрасы, на месцы, дзе раней р. Ведзьма ўпадала ў Шчару. Даўж. стаянкі 170 м, шыр. да 20 м. Культурны пласт да 0,5 м (цяпер падтапляецца вадасховішчам).

Знойдзены крамянёвыя вырабы, у т. л. нажы і сякеры, фрагменты пласкадоннага ляпнога посуду з прафіляванымі сценкамі, паверхні якіх заштрыхаваны.
*М. М. Чарняўскі.*

**ЗАДВО́Р'Е,** паселішча позняга сярэднявечча каля в. Задвор'е Стаўбцоўскага р-на. За 200 м на У ад вёскі, на левым беразе р. Адцэдка, ва ўрочышчы Кавалеўшчына.

Знойдзены фрагменты кухоннага і сталовага керамічнага посуду, кафля, шкляны посуд, падкова, падкоўка пад абутак, косці жывёл. Ускрыты падмурак пабудовы (3,6 × 2,4 м), рэшткі печы, 1400 фрагментаў кафлі 17—18 ст. (сценная кафля памерам 17×19, 17×17, 19×20 см, карнізная 15×21,15×19,5 см, пераважаюць зялёныя паліваныя пласціны з расліннымі, гербавымі і зааморфнымі сюжэтамі).

Селішча можна атаясамліваць з вядомым па пісьмовых крыніцах 16—18 ст. маёнткам Кавалеўшчына, які пазначаны на картах 18 ст. (ЦДВГА СССР, ф. ВУА, спр. 25237, л. 14).
*В. У. Шаблюк.*

**ЗАДЗЕ́ЎСКАЕ,** паселішча сярэдняга і позняга неаліту на паўд. ускраіне г. Паставы. На 1-й надпоймавай тэрасе паўн. берага воз. Задзеўскае. Памер 50—70×20 м. У 1980 даследаваў 112 м² Э. М. Зайкоўскі. Культурны пласт каля 0,4 м.

Выяўлены крамянёвыя прылады працы: бакавыя, канцавыя і камбінаваныя скрабкі, скоблі, праколка на пласцінітым адшчэпе, 2 нажы і 13 ножападобных пласцін, абломкі тронкавых наканечнікаў стрэл і лязо шліфаванай сякеры, 13 нуклеусаў. Кераміка падзяляецца на 3 асн. групы: фрагменты посуду *тыповай грабеньчата-ямкавай керамікі культуры,* арнаментаванага шырокімі канічнымі ямкамі і адбіткамі накручанага на палачку шнура («вусеневы» арнамент), у цесце дамешкі буйназярністага пяску ці жарствы; фрагменты керамікі *нарвенскай культуры,* арнаментаванай дробнымі ямкамі, наколамі, адбіткамі грабеньчатага штампа, перакрыжаванымі лініямі і паскамі з насечак, у цесце дамешкі тоўчаных ракавін; фрагменты посуду *шнуравой керамікі культуры,* арнаментаванага гарызантальнымі адбіткамі шнура або без арнаменту, у цесце дамешкі тоўчаных ракавін. Выяўлена і т. зв. гібрыдная кераміка; цеста такое ж, як і ў нарвенскай, але з арнаментам культуры тыповай грабеньчата-ямачнай керамікі.

Характар керамікі ўсіх трох груп блізкі да адпаведнай керамікі з паселішча *Скема* ў Мядзельскім р-не. Выяўлены шматлікія фрагменты раннесярэдневяковай ганчарнай керамікі, жал. нож і сякера.

Датуецца 2-й пал. 3 — пач 2-га тысячагоддзя да н. э.

*Літ.*: 392. *Э. М. Зайкоўскі.*

**ЗАДРУЦКІ МАНЕТНЫ СКАРБ.** Знойдзены на беразе Дняпра каля в. Задруцце Рагачоўскага р-на ў 1893. У гліняным гаршку знаходзілася 89 цэлых і 3 фрагментаваныя сярэбраныя грыўні-зліткі (гл. ў арт. *Злітак плацёжны*) агульнай масай 14,5 кг. Самы буйны скарб з грашовых знакаў безманетнага перыяду (гл. нарыс *Нумізматыка*), знойдзеных на Беларусі. Імператарская Археал. камісія (Пецярбург) размеркавала скарб паміж музеямі Пецярбурга, Масквы, Разані, Арла, Ноўгарада, Адэсы, Херсона, Берлінскага Каралеўскага Нумізматычнага к-та, Пенсільванскага ун-та (ЗША) і распрадала прыватным калекцыянерам. У 1929 Дзярж. Акадэмія гісторыі матэрыяльнай культуры перадала 13 зліткаў Эрмітажу. Ухаваны ў 13 ст.

*Літ.*: 1541, 1647. *В. Н. Рабцэвіч.*

**ЗАДРУЦЦЕ,** археал. помнікі дрыгавічоў каля в. Задруцце Рагачоўскага р-на.

Гарадзішча. На паўд. ускраіне вёскі, на правым беразе Дняпра. Пляцоўка роўная, памер 83×45 м. Усх. схіл стромкі, выш. 17—18 м, з інш. бакоў умацавана валам (дрэнна захаваўся) выш. 1—3 м, шыр. ад 8 да 15 м. Абследавалі ў 1930—31 А. М. Ляўданскі, у 1958 В. М. Мельнікоўская, у 1976 А. Р. Мітрафанаў.

Курганны могільнік. За 100 м на Пн ад гарадзішча. 40 насыпаў, захаваліся 3 дыям. 3,5—5 м, выш. 0,5—0,7 м. Даследаваў у 1931 6 курганоў Ляўданскі, абследаваў у 1976 Мітрафанаў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне, пераважна галавой на З. Знойдзены рэшткі дамавін, жал. цвікі, ганчарны посуд, пацеркі (шкляныя, бронзавыя, філіграннaя сердалікавыя), бронзавыя пярсцёнкападобныя скроневыя кольцы.

Датуецца 10—11 ст.

*Літ.*: 718. *А. Р. Мітрафанаў.*

**ЗАЙКОЎСКІ** Эдвард Міхайлавіч (н. 18.11.1952, в. Дубашы Валожынскага р-на), беларускі археолаг. Канд. гіст. навук (1985). Скончыў БДУ імя Леніна (1975). З 1980 навук. супрацоўнік Ін-та гісторыі АН Беларусі. Даследуе помнікі неаліту і бронзавага веку, язычніцкія вераванні і першабытнае мастацтва на тэр. Беларусі. Аўтар артыкулаў пра неаліт і эпоху бронзы Беларускага Падзвіння, паганскія свяцілішчы, па гісторыі мастацтва (вытокі арнаменту і музыкі), навук.-папулярных прац.

*Тв.*: Першабытныя помнікі Паўночнай Беларусі. Мн., 1990.



Э. М. Зайкоўскі.

**ЗАКОН БЕЛАРУСКАЙ ССР «АБ АХОВЕ І ВЫКАРЫСТАННІ ПОМНІКАЎ ГІСТОРЫІ І КУЛЬТУРЫ».** Прыняты Вярхоўным Саветам БССР 14.7.1978 на падставе ўсесаюзнага Закону ад 29.10.1976 і ў адпаведнасці з арт. 66 Канстытуцыі Беларускай ССР, які абавязвае грамадзян БССР клапаціцца пра захаванне гіст. помнікаў і інш. культ. каштоўнасцей. Закон юрыдычна замацоўвае арганізацыю і забеспячэнне захаванасці помнікаў гісторыі і культуры, аб'яўляе іх усеагульным нар. здабыткам, састаўной часткай сусветнай культуры. У ім пералічаны віды помнікаў, якія падлягаюць ахове,— археалагічныя, гістарычныя, архітэктурныя, помнікі мастацтва, пісьмовыя і інш. Адказнасць за ўлік і захаванне помнікаў Закон ускладае на Мін-ва культуры БССР і яго ўстановы на месцах, вызначае іх правы і абавязкі, а таксама функцыі грамадскіх і дзярж. арганізацый — Бел. добраахвотнага т-ва аховы помнікаў гісторыі і культуры і АН БССР. Прадугледжваюцца неабходныя меры і ўмовы правядзення работ у зоне размяшчэння помнікаў, якія забяспечваюць іх захаванасць. Асобы, вінаватыя ў парушэнні захаванасці, пашкоджанні або знішчэнні помнікаў, прыцягваюцца да крымінальнай або адм. адказнасці. Пастанова СМ СССР ад 16.9.1982 зацвердзіла «Палажэнне аб ахове і выкарыстанні помнікаў гісторыі і культуры», якое удакладняе парадак выкарыстання закона СССР ад 1976. Распрацавана «Інструкцыя па арганізацыі зон аховы помнікаў нерухомых гісторыі і культуры СССР» (дадатак да загада Мін-ва культуры СССР ад 24.1.1986, № 33).

*Літ.*: 402, 594, 1110. *П. Ф. Лысенка.*

**ЗАКУР'Е,** курганны могільнік крывічоў каля в. Закур'е Чашніцкага р-на. За 1,5 км на Пд ад вёскі. Захавалася 19 курганоў выш. 1—3 м, дыям. 6—15 м. Даследавалі ў 1888 Е. Р. Раманаў (3 насыпы), у 1971 Г. В. Штыхаў (4 курганы), абследавала ў 1981 Т. С. Бубенька. Пахавальныя абрады — трупаспаленне (1) і трупапалажэнне (4) на гарызонце (у адным — на падсыпцы) галавой на Пн і З. Знойдзены жал. сякера, нажы, цвікі, спражка, сярэбраны і бронзавыя пярсцёнкі, завушніцы, каменныя і шкляныя пацеркі, крэсіва і сланцавы брусок. 2 курганы — кенатафы. Некаторыя курганы насыпаны на месцы паселішча 6—8 ст. Датуецца 11 ст.

*Літ.*: 34.

**ЗАЛАТАМІНО,** гарадзішча і селішча *калочынскай культуры* каля в. Залатаміно Кармянскага р-на. За 1 км па ПнЗ ад вёскі, на беразе р. Аўсянка (прыток Сажа).

Гарадзішча. Мясц. назва Гарадок. На высокім роўным участку берагавой тэрасы. Выш. над поймай 6—7 м. Пляцоўка авальная, выцягнута з ПнЗ на ПдУ, пл. 228 м$^2$. Умацавана 2 валамі (выш. ўнутранага 0,5—1 м, знешняга — 2 м) і ровам. У 1981, 1983 даследаваў 196 м$^2$ С. Я. Расадзін. Культурны пласт 0,2 м. Знойдзены абпаленыя камяні, магчыма, ад разбураных агнішчаў. У цэнтры пляцоўкі яма званападобнай формы (1×1,15×1×25 м), дзе выяўлены рэшткі 2 вял. грубаляпных гаршкоў з дамешкамі жарствы ў гліне. Невялікія памеры пляцоўкі, адсутнасць рэштак жылых і гасп. пабудоў даюць падставу меркаваць, што гарадзішча не было месцам пастаяннага жыхарства, а з'яўлялася гарадзішчам-сховішчам. Гл. таксама арт. *Калочын, Чырвоная Зорка.*

Селішча. За 100 м ад гарадзішча. Пл. каля 1 га. Культурны пласт 0,5 м. Знойдзены тыповыя для паселішчаў калочынскай культуры металургічныя шлакі, фрагменты керамікі, якая не адрознівалася ад знойдзенай на гарадзішчы. Датуецца 6—8 ст. *С. Я. Расадзін.*

**ЗАЛАТНІКОВАЯ ПРОБА,** прынятая ў Расіі *проба*, па якой утрыманне чыстага золата або серабра ў адным фунце сплаву адпавядала падзелу на 96 вагавых частак — залатнікоў (1 фунт = 96 залатнікам).

Афіцыйна ўведзена ў 1711 для сярэбраных сплаваў, у 1733 — для залатых. Чысты метал адпавядаў 96-й пробе (напр., 84-я проба = 84 залатнікоў чыстага металу + 12 залатнікоў *лігатуры*). У адпаведнасці з «Палажэннем аб манетным двары» 1845 для ўнутраных разлікаў на манетным двары выкарыстоўвалася «дзесяцічная разнавага». «Манетны статут» 1850 пры вызначэн-

ні пробы дробныя долі меней 1/6 залатніка ў разлік не прымаў, што адбівалася на ступені дакладнасці вызначэння чысціні каштоўнага металу. Таму прынццем «Правіл аб манетнай сістэме» 1885 З. п. была знята з ужытку. У канцы 19 — пач. 20 ст. законнымі (паводле пробнага статута 1898) былі З. п. сярэбраных вырабаў 84-й, 88, 91, 95-й, залатых — 56-й, 72, 82, 92, 94-й. У СССР з 1927 адбыўся пераход на *метрычную пробу* вырабаў з залатых і сярэбраных сплаваў.

*Літ.*: 1528, 1534. *І. І. Сінчук.*

**ЗАЛЕ́СКАЯ СЯДЗІ́БА,** драўляная сядзіба 17 ст. Размешчана за 1 км на З ад в. Залессе Смаргонскага р-на, недалёка ад шашы Мінск — Вільнюс. Пасля 1725 набыта Агінскімі. У 1802—22 для кампазітара і дзярж. дзеяча Рэчы Паспалітай М. К. Агінскага пабудаваны новы драўляны палац, які стаў кампазіцыйным цэнтрам сядзібы. З аднаго боку палаца быў гасп. двор, па перыметры якога размяшчаліся стайня, карэтная, хлявы, ляднік, кухня. Двор быў абнесены агароджай з 2-павярховай уязной брамай. З другога боку палаца размяшчаўся шпалерны сад (рэгулярны парк) з домам садоўніка. Планіроўка палаца анфіладная. Праз вял. сені і залу можна было трапіць у сад. У пач. 19 ст. палац перабудаваны, але яго планіроўка не змянілася.

Будынак прамавугольны ў плане з 4 алькежамі па вуглах, накрытымі шлемападобнымі дахамі, з мезанінам у цэнтр. частцы, меў гонтавы вальмавы дах складанай канфігурацыі. Гал. ўваход афармлены 4-калонным порцікам. Сіметрычны яму ўваход з паркавага фасада выходзіў на галерэю. Інвентар 1796 захаваў звесткі пра планіроўку і інтэр'ер палаца да яго перабудовы. Тагачасны будынак меў (гл. схему): сені, 2 пакоі, капліцу, аптэчку, 2 спальні, «сакрэтныя» памяшканні, сталовую, буфетную, гасціную, гардэроб, канцылярыю, залу, 2 вуглавыя пакоі. Сцены большасці пакояў былі абклеены шпалерамі з рознакаляровым малюнкам, столь пабелена і ўпрыгожана разеткамі. Падлога з дошак і паркету.

У 1989 на месцы драўлянага палаца праведзены археал. даследаванні, поўнасцю ўскрыты падмуркі, складзеныя з вял. камянёў і цэглы-пальчаткі. Недалёка ад палаца выяўлены рэшткі пабудовы, якая згарэла каля 1-й пал. 17 ст. У магутным слоі вугалю знойдзены кавалкі гаршковай кафлі пач. 17 ст., непаліванага і моранага посуду і інш.

*Л. У. Іванова, В. Р. Кукуня, А. В. Квяткоўская.*

**ЗАЛЕ́ССЕ,** паселішчы каля в. Залессе Чачэрскага р-на.

Паселішча-1 *верхнедняпроўскай культуры.* За 500 м на ПнЗ ад вёскі, ва ўрочышчы Вострваў, паміж азёрамі Казённае і Уступ. Памер 20 × 15 м. Выявіў у 1926 К. М. Палікарповіч, даследаваў у 1965 64 м² І. І. Арцёменка, у 1976 абследавала А. Г. Калечыц. Культурны пласт 0,1—0,15 м, залягае непасрэдна пад дзёрнам. Знойдзены фрагменты таўстасценных вастрадонных гаршкоў з ямачна-грабеньчатым арнаментам, крамянёвыя прылады працы (скрэблы, нажападобныя і сякерападобныя пласцінкі). Датуецца 3-м тысячагоддзем да н. э.

Паселішча-2 эпохі неаліту і бронзавага веку. За 2 км на Пн ад вёскі, на паўд.-ўсх. беразе воз. Асухі, ва ўрочышчы Карэнік. Выявіў у 1926 Палікарповіч, абследавалі ў 1965 Арцёменка, у 1978 Калечыц. Культурны пласт 0,15 м. Знойдзены крамянёвыя прылады працы, фрагменты ляпной керамікі.



**Залеская сядзіба;** талерка з выявай сядзібы Агінскіх. 19 ст.



**Залеская сядзіба:** рэшткі бутэлек («рэйнскі каменны тавар»).

*Літ.*: 479, 863. *А. Г. Калечыц.*

**ЗАЛЬВЯ́НЫ,** стаянкі эпохі мезаліту каля былой в. Зальвяны Мастоўскага р-на (цяпер у межах г. Масты).

Стаянка-1. На мысе тэрасы р. Зальвянка. Выявіў у 1958 Л. С. Клейн. Культурны пласт цёмна-шэрага колеру. Знойдзены мезалітычныя бакавыя разцы на пласцінках, канцавыя скрабкі, ганчарная кераміка і інш.

Стаянка-2. За 800 м на З ад б. вёскі, на ПнЗ ад дарогі з Мастоў на Кульшычы, на пясчаным павышэнні самай высокай тут левабярэжнай тэрасы Нёмана. Выявіў у 1986 М. М. Чарняўскі. Знойдзены матэрыялы эпохі мезаліту.

**ЗАЛЯ́ДДЗЕ,** паселішча каменнага і бронзавага вякоў каля в. Заляддзе Гомельскага р-на. На паўд.-ўсх. ускраіне вёскі, ва ўрочышчы Астроўкі, на пясчанай выдме поймы правага берага р. Іпуць. Выявіў у 1977 В. П. Пічукоў, у 1978 А. Г. Калечыц сабрала з паверхні помніка крамянёвыя скрабкі, нажы, скоблі, свярдзёлкі, праколкі, прылады, якімі секлі, скраблі, рэзалі, а таксама трапецыі, мікрапласціны, пласціністыя наканечнікі стрэл, фрагменты ляпнога посуду. Большая частка знаходак адносіцца да мезаліту (9—5-е тысячагоддзі да н. э.).

**ЗА́МАК** (ад замо́к, замыкаць), 1) замкнуты комплекс з абарончых элементаў і жылых пабудоў, абведзены лініяй умацаванняў з зямлі, дрэва і каменю. На Беларусі З. пачалі будаваць у 2-й пал. 12 ст. 2) Жыллё феадала эпохі сярэднявечча. 3) Назва турмы ў бел. горадзе. На Беларусі З. былі агульнадзярж. прызначэння (вялікакняжацкія, каралеўскія) і прыватнаўласніцкія (магнацкія, царкоўныя, шляхецкія). Структура іх абароны складалася з драўляных (астрогі, вастраколы, гародні, парканы, тарасы), мураваных (каменныя, цагляныя) ці глінабітных сцен з баявымі памостамі-галерэямі і звязаных з імі драўляных, мураваных ці камбінаваных (фахверкавых) шмат'ярусных вежаў з разнастайнымі па прызначэнні і абрысах байніцамі. Часта ў З. была гал. вежа — данжон, якая служыла жыллём,назіральным пунктам і апошнім рубяжом абароны. У краінах Сярэдняй Азіі, Арабскага Усходу, Закаўказзя (5—8 ст.), Зах. Еўропы (11—12 ст.) З. мелі выгляд прамавугольных мураваных збудаванняў з глухімі сценамі і адпавядалі тактыцы пасіўнай абароны. Планава-кампазіцыйныя асаблівасці такіх З. спалучалі эліністычныя, рымскія і мясц. традыцыі ваеннага дойлідства. Пазней (11—12 ст.) тактыка актыўнай абароны прывяла да будаўніцтва З. нерэгулярнай планіроўкі (крыжацкія З. ў Сірыі і Палесціне), дапасаваных да складанага рэльефу мясцовасці, са сценамі і вежамі, аснашчанымі байніцамі і машыкулямі. Уваходныя брамы З. дадаткова ўмацоўвалі барбаканамі і абарончымі равамі. Акрамя абарончых, у З. сталі ўключаць жылыя, культавыя і гасп. пабудовы. У перыяд феадалізму ў Еўропе з развіццём артылерыі З. абкружалі абарончымі бастыёнными збудаваннямі (спачатку з абмуроўкай курцін і валоў, потым толькі землянымі збудаваннямі). На Беларусі першыя З. з'яўляліся агульнагар. велікакняжацкімі цытадэлямі *(Гродзенскі Стары*

*замак*). Некаторыя з іх мелі значныя памеры (замкі ў Полацку, Віцебску). З. ставіліся на ўзгорках («горныя») ці ў нізінах («дольныя»), мелі рэгулярную і нерэгулярную планіроўку. Да 15 ст. вядомы 2 тыпы З.: разнастайныя па абрысах на ўзвышшах, план якіх паўтараў канфігурацыю рэльефу, і размешчаныя ў нізінах звычайна з рэгулярнай планіроўкай з шырокім выкарыстаннем равоў з вадой (*Ляхавіцкі замак*). Пашыраны З., абнесеныя драўлянымі (Радашковічы, Пінск, *Гомельскі замак, Магілёўскі замак*) і мураванымі (*Лідскі замак, Крэўскі замак,* Навагрудскія замкі, *Мірскі замак,* Быхаўскі замак, *Смалянскі замак, Любчанскі замак*) сценамі. Пры будаўніцтве З. быў пашыраны спосаб 3-слаёвай, т. зв. «лусковай» муроўкі: 2 цагляныя сцяны і забутоўка паміж імі з дробнага каменю і бітай цэглы, залітыя вапнавым растворам. Часта вонкавыя паверхні сцен выкладаліся з каменю (Ліда, Крэва і інш.). Ужывалася таксама мяшаная (паласатая) муроўка, калі рады валуноў, пакладзеных на вапне, выраўноўваліся радамі буйнафарматнай цэглы, а прасветы паміж камянямі закладваліся кавалкамі цэглы. У замкавым будаўніцтве Беларусі прасочваюцца сувязі з рус. (Ноўгарад, Пскоў) і зах.-еўрап. абарончым дойлідствам. У некаторых З. сустракаюцца элементы раманскай архітэктуры (вежы Навагрудскага, Гродзенскага, Лідскага і інш. З.), у большасці замкавых збудаванняў 15—16 ст.— рысы стыляў готыкі (стральчатыя крыжовыя скляпенні з нервюрамі, стральчатыя аркі акон і дзвярэй) і рэнесансу (замак у Міры). З 17 ст. ў архітэктуры З. пераважаюць барочныя рысы. У сярэдзіне 16 ст. пашырыліся З. з бастыённай сістэмай умацаванняў (Ляхавічы, *Заслаўскі замак*), зрэдку будаваліся мураваныя бастэі. З канца 16 ст. замкавае будаўніцтва паступова трансфармавалася ў палацава-замкавае (Нясвіжскі палацава-замкавы комплекс, Гальшанскі палац). Прыватнаўласніцкія феад. рэзідэнцыі 17—18 ст. складаліся з паасобных умацаванняў і палаца, якому адводзілася гал. роля ў арх. кампазіцыі. Многія старыя замкі рэканструяваліся, абкружаліся паркамі. У 1-й пал. 19 ст. сярэдневяковыя ўмацаванні замянялі крэпасцямі са шматкіламетровымі лініямі абароны і элементамі найноўшай фартыфікацыі. Замкавае буд-ва паўплывала на архітэктуру ўмацаваных храмаў (Мураванкаўская царква-крэпасць, Сынковіцкая царква-крэпасць, Камайскі касцёл, Быхаўская сінагога), жылых дамоў (*Гайцюнішскі дом-крэпасць*), гарадскіх брам, сядзібных дамоў і інш. збудаванняў. На Беларусі замкамі часта называлі палацы 18 ст. (Гродзенскі каралеўскі палац і інш.).

*Літ.*: 210, 211, 949, 1201, 1280, 1424, 1430, 1499, 1500. *М. А. Ткачоў.*

**ЗАМАСЦЯ́НЫ**, археал. помнікі каля в. Замасцяны Ваўкавыскага р-на.

С е л і ш ч а - 1. На ўсх. і паўн.-ўсх. ускраінах вёскі, на левым беразе р. Рось. Выявіла ў 1958 Ф. Д. Гурэвіч, абследавалі ў 1984 Я. Г. Звяруга, у 1988 В. У. Шаблюк. У культурным пласце таўшч. 0,4—0,5 м сустракаюцца фрагменты стараж.-рус. керамікі. Найб. знаходак 16—18 ст.: гліняны посуд, кафля, курыльная люлька. Паводле картаграфічных даных, у 1797 на месцы селішча знаходзіўся двор феадала (ЦДВГА СССР, ф. ВУА, спр. 25243, л. 5).



Накладны **замок** 17 ст. з Заслаўя.



**Замкі** 17 ст. з Мінскага замка.

С е л і ш ч а - 2. За 150 м на З ад вёскі. Сярод знаходак кераміка позняга сярэднявечча, косці жывёл, каваныя цвікі, рыжскі солід Густава II Адольфа Вазы [1621—32]. Паводле картаграфічных даных, у 1797 на гэтым месцы знаходзілася невял. паселішча, верагодна, засценак. *В. У. Шаблюк.*

**ЗАМО́К**, прыстасаванне для замыкання дзвярэй, куфраў, шафаў, ланцугоў, аковаў і інш. У дзяржавах Стараж. Усходу вядомы з 2-га тысячагоддзя да н. э. На тэр. Беларусі ва ўжытку з 10—11 ст. Падзяляліся на навясныя (здымныя) і нерухомыя (унутраныя). Асновай канструкцыі жал. навясных З. да 16 ст. быў спружынны механізм, П-падобная дужка-скаба і корпус, які складаўся з вялікага (для спружыны) і малога (дзе мацаваўся свабодны канец дужкі) цыліндраў. Пры дапамозе *ключа*, які ўводзіўся ў корпус, спружыны сціскаліся і дужка магла рухацца ўверх. Паводле формы корпуса, ключа і ключавой адтуліны цыліндрычныя З. падзяляліся на шматлікія тыпы, у т. л. індывідуальныя з асабліва складанай канструкцыяй. Унутраныя З. таксама мелі падобную канструкцыю: цыпелем ключа ўціскалася спружына і засаўка перасоўвалася. У 16 ст. на Беларусі паявіліся навясныя З. новай канструкцыі з круглым, прамавугольным або трохвугольным корпусам і дужкай на шарніры, якая свабодна адкідвалася. Іх механізм быў значна прасцейшы за папярэдні — свабодны канец дужкі заціскаўся пласцінкай-засаўкай, якую адсоўвалі паваротам ключа. З 17 ст. вядомы вінтавыя З. (аснова канструкцыі — гарызантальны цыліндр, у якім трубка з разьбой унутры і спіралепадобнай спружынай звонку) і З. т. зв. «шведскага» тыпу (у вертыкальным цыліндры корпуса была шпуля, якая замыкала дужку сваім рабром). У 18 ст. пашырыліся рэпкападобныя З., блізкія да сучасных узораў. Былі ва ўжытку цалкам драўляныя З., якія адмыкаліся з дапамогай спец. каленчатых ключоў.

*Літ.*: 552, 1035. *Г. М. Сагановіч.*

**ЗАМО́ШША**, стаянка ранняга мезаліту каля в. Замошша Верхнядзвінскага р-на Віцебскай вобл. За 2,5 км на ПнЗ ад вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Зах. Дзвіна, на выш. 11,5 м над узроўнем вады. Адкрыў у 1983 і даследаваў у 1983—85 У. П. Ксяндзоў (раскапана 732 м²). Культурны пласт разбураны ворывам, другасным засяленнем тэр. помніка ў часы сярэднявечча. Культурныя рэшткі эпохі мезаліту сустракаюцца на глыб. 0,35—0,55 м ад сучаснай паверхні.

Сабрана 7,5 тыс. каменных прылад працы, выраблених з крэйдавага крэменю цёмна-шэрага, карычневага ці чорнага колеру. Сярод знаходак тронкавыя сіметрычныя, постсвідэрскія наканечнікі стрэл, ланцэтападобныя вас-

трыі, канцавыя і авальныя скрабкі, разцы на рагу зламанай пласціны, праколкі, пласціны-ўкладышы, сколі, долатападобныя прылады, свердлы, мікрапласціны, нуклеусы, рэтушаваныя пласціны і адшчэпы.

Помнік адносіцца да *кунда культуры.*

*Літ.*: 399, 622. *У. П. Ксяндзоў.*

**ЗАМО́ШША,** гарадзішча *днепра-дзвінскай культуры* каля в. Замошша Полацкага р-на. За 300 м на ПдЗ ад вёскі, на ўзгорку выш. да 14 м, сярод забалочанай мясцовасці. Памер гарадзішча 53 × 37 м. Даследавалі ў 1949 А. Р. Мітрафанаў (выявіў ляпную гладкасценную кераміку), у 1974 Г. В. Штыхаў (залажыў раскоп 16 м²), у 1977—80 В. І. Шадыра (ускрыў больш за 500 м²). Культурны пласт ад 2,5 м у цэнтры пляцоўкі да 0,5 м па краях.

Выяўлена шмат вырабаў з каменю, косці, гліны, жалеза. Сярод каменных прылад — плоскія клінападобныя і свідраваныя сякеры, зерняцёркі, цёрачнікі, таўкачы, прасліцы. Знаходкі найбольш прадстаўлены касцянымі вырабамі (больш за 200): прылады працы (долаты, прасліцы, шылы, праколкі, іголкі і інш.), зброя (наканечнікі дзідаў, дроцікаў, стрэл, ручкі кінжалаў, баявых нажоў), упрыгожанні (шпількі, падвескі, амулеты), розныя дробныя вырабы. З найб. цікавых знаходак — касцяныя шпількі з вытанчанай формай галоўкі, якія з'яўляюцца спецыфічнымі прадметамі ўбранства стараж. балтаў, маюць шматлікія аналагі ў Прыбалтыцы, датуюцца 8—7 ст. да н. э. Гэтыя знаходкі вызначаюць ніжнюю дату гарадзішча, якое ў цэлым адносіцца да днепра-дзвінскай культуры. У верхніх пластах знойдзены жал. сякеры, шылы, фрагменты вузкалязовых сякер, сярпы з прамавугольнай спінкай, характэрныя толькі для гарадзішчаў Бел. Падзвіння, а таксама сярпы латгальскага тыпу. На мацерыку выяўлены рэшткі агнішчаў, круглыя ямы (дыям. 2,5—3 м, глыб. 0,6—1 м), запоўненыя вугалем, касцямі жывёл, рэшткамі посуду, разнастайнымі вырабамі з каменю, косці, абпаленымі камянямі. Яны адносяцца да найб. ранняга перыяду існавання гарадзішча. Магчыма, яны звязаны з рэшткамі жытлаў-зямлянак, якія звычайна рэканструююцца ў выглядзе будана з канічным дахам. На гарадзішчы сабраны абломкі гладкасценнага глінянага посуду слоікападобных і слабапрафіляваных форм. Для слоікападобных гаршкоў характэрны адтуліны на венчыку. Слабапрафіляваныя пасудзіны арнаментаваны пракрэсленымі лініямі ці скразнымі адтулінамі. Зрэдку сустракаецца штрыхаваная кераміка. У больш позні час гарадзішча выкарыстоўвалася як сховішча.

*Літ.*: 399, 1311, 1313. *В. І. Шадыра.*

**ЗАМО́ШША,** курганны могільнік 10 — пач. 11 ст. каля в. Замошша Талачынскага р-на. За 400 м на Пд ад вёскі. 13 моцна абараных насыпаў паўсферычнай формы, выш. 1,5—2 м, дыям. 5—15 м. Абследавалі ў 1967 Г. В. Штыхаў, у 1972 А. Р. Мітрафанаў. У 1972 З. М. Сяргеева раскапала 3 курганы на знос з захаваннем броўкі шыр. 1 м. Пахавальныя абрады — трупапалажэнне і трупаспаленне.

Знойдзены абломак масіўнага жал. прадмета, цэлае глінянае вядзерца з вушкам і лінейным арнаментам, фрагмент жал. нажа з шырокай спінкай, бронзавыя літыя накладкі на пояс з раслінным арнаментам, кераміка, косці чалавека, каня, дробных жывёл. Аналагі — у Люцынскім могільніку (10—11 ст.) і Гнёздаўскіх курганах (10 ст.).

*Літ.*: 1340. *В. М. Ляўко.*

**ЗА́МЧЫШЧА,** месца з рэшткамі разнастайных сярэдневяковых умацаванняў, якія ўключалі комплекс абарончых і жылых пабудоў на тэр. *дзядзінца* (земляныя валы са сценамі, вежамі, равы і інш. элементы абароны). На Беларусі З. называюць рэшткі ўмацаваных паселішчаў розных часоў, якія ўключалі *гарадзішчы*, гар. цытадэлі, каралеўскія і прыватна-ўласніцкія замкі. На даследаваных З. (Ваўкавыск, Мінск, Навагрудак, Полацк і інш.) выяўлены драўляныя і мураваныя фартыфікацыйныя збудаванні, прадметы матэрыяльнай культуры (зброя, посуд, буд. і ваенны рыштунак, архіт.-дэкаратыўная кераміка).

**ЗАМЯ́ТНІН** Сяргей Мікалаевіч [9(21).4.1899, г. Паўлаўск Варонежскай вобл.— 5.11.1958], рускі археолаг. Скончыў Маскоўскі археал. ін-т (1920). З 1915 у варонежскім музеі і ун-це. З 1924 у Ленінградзе, працаваў у Дзярж. акадэміі гісторыі матэрыяльнай культуры, Ін-це гісторыі матэрыяльнай культуры, Музеі антрапалогіі і этнаграфіі. У выніку раскопак у Касцёнках (1922) адкрыў першыя на тэр. СССР помнікі шэльскай і ашэльскай эпох, верхнепалеалітычную стаянку Гагарына на Доне, даследаваў інш. помнікі каменнага веку (Ільская, Валгаградская стаянкі, грот Сасруко). Зрабіў перыядызацыю палеаліту Каўказа. На Беларусі даследаваў (1927) адну з найб. старажытных верхнепалеалітычную стаянку *Бердыж*, устанавіў яе храналагічную блізкасць да помнікаў Касцёнкі-1 на Доне, Вілендорф (Аўстрыя), Долні-Вестаніца (Чэха-Славакія). Правадзейны член Міжнар. антрапалагічнага ін-та ў Парыжы (1927), ганаровы чл. Каралеўскага антрапалагічнага ін-та Вялікабрытаніі і Ірландыі (1943).

*Тв.*: Раскопкі Бердыжскай палеалітычнай стаянкі ў 1927 г. Мн., 1930.

*У. Дз. Будзько.*

**ЗАПАВЕ́ДНІК ГІСТО́РЫКА-КУЛЬТУ́РНЫ,** пэўны ўчастак тэрыторыі з помнікамі гісторыі, культуры і археалогіі. Ствараецца дзяржавай для іх аховы, вывучэння, захавання і прапаганды ведаў пра іх. Можа ўключаць музеі. Мае асаблівы юрыдычны статус. На Беларусі дзейнічаюць *Заслаўскі гісторыка-культурны запаведнік, Полацкі гісторыка-культурны запаведнік.*

**«ЗАПІ́СКІ АДДЗЕ́ЛА ГУМАНІТА́РНЫХ НАВУ́К»,** серыйнае навук. выданне Ін-та бел. культуры (кн. 1—6) і АН БССР (кн. 7—13). Выдаваліся ў 1927—30 у Мінску на бел. мове. Змяшчаліся матэрыялы па гісторыі, археалогіі, філалогіі, мастацтвазнаўству, этнаграфіі, тэзісы дакладаў, нататкі, хронікі пра археал. і этнаграфічныя экспедыцыі. Матэрыялы па археалогіі Беларусі змешчаны ў кн. 5 *«Працы кафедры археалогіі»* (1928), кн. 11 *«Працы археалагічнай камісіі»* (1930).

**«ЗАПІ́СКІ БЕЛАРУ́СКАЙ АКАДЭ́МІІ НАВУ́К»,** выданне Акадэміі навук БССР. Выходзілі ў 1933—37 (кн. 1—7) у Мінску на бел. мове. Змяшчаліся матэрыялы па розных галінах навукі. У кн. 5 (1936) надрукаваны арт. А. М. Ляўданскага і К. М. Палікарповіча «Археалагічныя доследы ў БССР у 1933—1934 гг.», у якім аналізуюцца археал. даследаванні секцыі археалогіі Ін-та гісторыі АН Беларусі ўздоўж Зах. Дзвіны ад вытокаў да граніцы з Латвіяй. На думку аўтараў, шлях «з варагаў у грэкі» праходзіў цераз верхні Днепр, рэкі Каспля, Зах. Дзвіна, Усвятволак, Ловаць, воз. Ільмень. Пададзены вынікі даследаванняў гарадзішчаў каля былой в. Цербахунь (гл. *Канькі*), дзе выяўлена печ-домніца, і гарадзішчаў *Дзявічкі, Сцяпанавічы, Новы Болецк* з рэшткамі аналагічных печаў. На падставе даследаваных матэрыялаў аўтары робяць вывад, што эпоха патрыярхальнага грамадства звязана з развіццём матычнага, ляднага земляробства, шырокім выкарыстаннем свойскай жывёлы ў якасці цяглавай сілы. Матэрыял, пададзены ў нарысе пра раскопкі гарадзішчаў і курганоў у *Аздзяцічах*, часткова быў скарыстаны ў «Нарысах гісторыі дакласавага грамадства на Беларусі», што падрыхтаваў Ляўданскі для друку ў 4-й кнізе «Прац секцыі археалогіі Ін-та гісторыі Беларускай Акадэміі навук», якая не выйшла ў свет у сувязі з арыштам аўтара ў 1937. *Г. В. Штыхаў.*

**«ЗАПИСКИ ИМПЕРА́ТОРСКОГО АРХЕОЛОГИ́ЧЕСКОГО ОБЩЕ́СТВА»,** перыядычнае ілюстраванае выданне, якое выходзіла ў 1886—1901 (12 тамоў) у Санкт-Пецярбургу на рус. мове.

Друкавала пратаколы пасяджэнняў Рус. археал. т-ва, спісы рус. і іншаземных яго членаў, рус. і замежную бібліяграфію, геаграфічныя і імянныя паказальнікі. Змяшчала працы аддзяленняў рус. і слав. археалогіі, аддзялення старажытнакласічнай, візантыйскай і зах.-еўрап. археалогіі, у т. л. звесткі пра даследаванні курганоў У. Б. Антановічам, М. Я. Брандэнбургам, У. З. Завітневічам, Т. Нарбутам, Е. Р. Раманавым, У. І. Сізовым, М. М. Турбіным, К. П. Тышкевічам,

А. С. Уваравым, М. В. Фурсавым, С. Ю. Чалоўскім у Магілёўскай губ., К. А. Гаворскім, М. Ф. Кусцінскім, Раманавым, А. М. Семянтоўскім у Віцебскай губ., Э. А. Вольтэрам і В. А. Шукевічам на Гродзеншчыне, пра радзімічкія курганы ў Навазыбкаўскім і Суражскім пав., жальнікі Беларусі ў працах А. А. Спіцына, вынікі даследаванняў кургана ў Хізаве на Гомельшчыне. *У. У. Багамольнікаў.*

**«ЗАПИСКИ СЕВЕРО-ЗАПАДНОГО ОТДЕЛА ИМПЕРАТОРСКОГО РУССКОГО ГЕОГРАФИЧЕСКОГО ОБЩЕСТВА»**, перыядычнае ілюстраванае выданне, якое выходзіла ў 1910—14 у Вільні на рус. мове пад рэдакцыяй Д. І. Даўгялы. Выйшла 4 кнігі, у якіх асвятляліся пытанні археалогіі, геаграфіі, гісторыі, этнаграфіі, друкаваліся хроніка, звесткі пра дзейнасць музеяў, рэцэнзіі, пратаколы пасяджэнняў т-ва.

У ліку археал. матэрыялаў апісанне палеалітычных стаянак і знаходак, помнікаў неалітычнага перыяду, гарадзішчаў, пахаванняў з раскопак у Гомельскім пав., справаздача і нарыс пра раскопкі на Магілёўшчыне і Гомельшчыне (Е. Р. Раманаў), апісанне Рагвалодава каменя з-пад Оршы (С. Дуброўскі), вынікі даследаванняў могільнікаў у Ашмянскім пав. (П. С. Рыкаў), інфармацыя пра раскопкі курганоў каля в. Клімавічы Магілёўскай губ. *У. У. Багамольнікаў.*

**ЗАРО́НАВА**, гарадзішча рубяжа днепра-дзвінскай і банцараўскай культур. Каля в. Заронава Віцебскага р-на. За 3 км на У ад вёскі, на гары выш. 18 м у выгіне р. Утва. Пляцоўка гарадзішча 60×30 м, па краі быў вал, з паўн. боку на схіле — 2 валы і равы. Гарадзішча амаль поўнасцю знішчана ў 1960-я г. пры распрацоўцы гравійнага кар'ера. У 1964 К. П. Шут даследаваў 24 м². Гарадзішча двухслаёвае. Знойдзена кераміка (тэкстыльная і архаічная гладкасценная ляпная), каменная клінападобная сякера, касцяная праколка, жал. шыйная грыўня, гліняны посуд.

З Пд і У да гарадзішча прымыкае селішча. Яго пл. каля 1 га. Выяўлена ляпная кераміка банцараўскай культуры.

*Літ.:* 895, 1340. *Г. В. Штыхаў.*

**ЗАРУБІ́НЕЦКАЯ КУЛЬТУ́РА**, археал. культура плямён, якія ў раннім жал. веку жылі ў Сярэднім і Верхнім Падняпроўі, Прыпяцкім Палессі. Назва ад могільніка каля с. Зарубінцы на Кіеўшчыне, адкрытага ў 1899. Насельніцтва З. к. займалася земляробствам, жывёлагадоўляй, паляваннем, рознымі хатнімі рамёствамі. Выкарыстоўвала *гарадзішчы*, пабудаваныя ў папярэдні час плямёнамі *мілаградскай культуры*, жыло і на неўмацаваных *селішчах*. Будавала наземныя слупавыя жытлы: аднакамерныя, прамавугольныя або квадратныя ў плане, пл. 10—24 м². Унутры іх у адным з кутоў ці каля сцяны размяшчалася каменнае агнішча на гліняной пляцоўцы, пазней — глінабітная печ. На селішчах, размешчаных на ўзвышшах, асн. тыпам жытла была паўзямлянка, заглыбленая ў зямлю на 0,4—1 м, пл. 8—24 м². Побач з жытламі размяшчаліся гасп. і вытворчыя пабудовы, ямы-паграбы. Пахавальныя абрады — трупаспаленне, зрэдку трупапалажэнне. Могільнікі не маюць знешніх адзнак. У Верхнім Падняпроўі выяўлены ямныя трупаспаленні і *кенатафы*, у Прыпяцкім Палессі — ямныя і урнавыя пахаванні са спальваннем і пахаваннем чарапоў. У магілах трапляюцца прылады працы, посуд, упрыгожанні. Насельніцтва вырабляла і выкарыстоўвала жал. наканечнікі коп'яў, клінападобныя сякеры (кельты), нажы, сярпы, ляпны посуд (пласкадонныя ці біканічныя глянцаваныя гаршкі, часам упрыгожаныя арнаментам, міскі), упрыгожанні (бранзалеты, скроневыя кольцы, шкляныя пацеркі, завушніцы, пярсцёнкі, розныя фібулы) і інш. Падтрымлівалі сувязі са скіфскімі, сарматкімі, кельцкімі плямёнамі, гарадамі Паўн. Прычарнамор'я. Большасць даследчыкаў лічыць З. к. стараславянскай. Найб. даследаваны археал. помнік *Чаплін* Лоеўскага р-на.



Ляпны посуд (1, 2,5—7, 10, 11, 22, 23), бронзавыя шпількі (3, 4) і фібулы (8, 9, 12, 13, 14), жалезныя наканечнікі стрэл (15, 16), шпора (17), нож (18), сякера-кельт (19), наканечнік кап'я (20), каса (21) **зарубінецкай культуры.**

Некаторыя даследчыкі (Ю. У. Кухарэнка, К. В. Каспарава) лічаць, што З. к. ўзнікла ў 2 ці на рубяжы 2 і 1 ст. да н. э., другія (В. М. Даніленка, Л. Д. Побаль) адносяць яе пачатак да 3 ст. да н. э. Адсутнічае адзіны погляд і на яе верхні храналагічны рубеж. На думку П. М. Траццякова, В. П. Пятрова і Кухарэнкі, гэта 2 ст. н. э., Каспарава (на падставе бытавання фібул) лічыць, што верхняя дата З. к. на Прыпяцкім Палессі не выходзіць за рамкі 1 ст. н. э. Праблема храналогіі З. к. ўскладняецца тым, што некаторыя даследчыкі аб'ядноўваюць З. к. ў яе класічных рысах з культурай насельніцтва, якое пакінула помнікі кіеўскага тыпу ці тыпу Абідні. Так, Побаль разглядае іх як позні этап З. к. і датуе 2—

5 ст. н. э. Існуюць розныя погляды і на паходжанне З. к. Калі яна была вядома толькі ў межах Сярэдняга Падняпроўя, яе звязвалі са скіфамі. Даніленка, а потым і Побаль звязваюць яе паходжанне з мілаградскай культурай (супадзенне тэр. рассялення, падабенства тыпаў жытлаў і гасп. збудаванняў, блізкасць пахавальнага абраду). Шмат прыхільнікаў і ў гіпотэзы пра сувязь З. к. з паморскімі плямёнамі (гл. *Паморская культура*).

*Літ.:* 119, 895, 902, 903, 904.

*Л. Д. Побаль.*

**ЗАРЭ́ЧЧА,** паселішчы неаліту і бронзавага веку каля в. Лубяное Бялыніцкага р-на, недалёка ад былой в. Зарэчча (адсюль назва).

Паселішча-1. За 1,5—2 км на З ад в. Лубяное, на надпоймавай тэрасе левага берага р. Друць. Адкрыў і даследаваў 36 м² у 1982 Э. М. Зайкоўскі. Памер 400×100 м. Культурны пласт 0,24—0,4 м.

Знойдзены крамянёвыя прылады працы (разнастайныя скрабкі на пласцінах і пласціністых адшчэпах, скрэблы і скоблі на пласціністых адшчэпах і адшчэпах, адціскальнікі, рэтушоры, праколкі, сякера і інш.), наканечнікі стрэл разнастайнай формы з рэтушшу, нуклеусы. Кераміка прадстаўлена 5 відамі: гладкасценная (дыям. 28—32 см) з дамешкамі жарствы, з загнутым унутр венчыкам, арнаментаваная грабеньчатымі і тычковымі адбіткамі, пракрэсленымі рысамі; з дамешкамі буйной жарствы і арганічнымі дабаўкамі (дыяметр 36 см), прамым венчыкам, аздобленая грабеньчатым, тычковым і ямачным арнаментам; порыстая гладкасценная з арганічнымі дамешкамі, аздобленая насечкамі, грабеньчатым і тычковым арнаментам, «вусеневымі» адбіткамі і інш.; гладкасценная кераміка ранняга этапу *паўночна-беларускай культуры* (дыям. 16—30 см) з шчыльнага цеста са слядамі арганічных дамешкаў і, магчыма, тоўчаных ракавін, прамым або крыху адагнутым венчыкам, аздобленая насечкамі ў выглядзе гарызантальнай ялінкі, тычковым і пракрэсленым арнаментам або іх спалучэннем; кераміка позняга этапу паўн.-бел. культуры з дамешкамі дробнай жарствы або пяску ў цесце, адагнутым венчыкам, аздобленая living рознымі варыянтамі грабеньчатага («ялінка», сетка з ромбаў, паралельныя палосы і інш.) і тычковым арнаментам.

Паселішча-2. За 100—150 м ад паселішча-1, аддзелена ад яго забалочаным логам. Дауж. 200 м. Культурны пласт 0,4—0,5 м. Адкрыў у 1982 Зайкоўскі.

Паселішча-3. На Пд ад паселішча-2, ад якога адмежавана забалочаным логам. Адкрыў у канцы 1920-х г. А. Дз. Каваленя. Культурны пласт каля 0,4 м. У шурфе выяўлена неалітычная кераміка, арнаментаваная адбіткамі грабеньчатага штампа і ямкамі, фрагмент порыстай неарнаментаванай керамікі, кавалкі крэменю са слядамі апрацоўкі.

*Літ.:* 393.

*Э. М. Зайкоўскі.*

**ЗА́СВІР,** археал. помнікі каля в. Засвір Мядзельскага р-на.

Селішча. За 1,5 км на З ад цэнтра вёскі, 300 м ад усх. берага воз. Свір, на пакатым узвышшы (4—5 м над узроўнем вады ў возеры), абапал безназоўнага ручая на працягу 300—400 м. У 1976—79 Я. Г. Звяруга даследаваў 1180 м². Культурны пласт таўшч. 0,25—1,2 м.

Выяўлены рэшткі жылых і гасп. пабудоў. Жытлы (дамы) наземныя з печамі-каменкамі або агнішчамі 2 тыпаў: гліняныя круглыя пляцоўкі дыям. каля 1 м і выкладзеныя з камянёў-авалаў памерам ад 1,1×1,5 м да 1,4×2,4 м. Гасп. пабудовы наземныя і апушчаныя



Бронзавыя паясны кручок (злева) і булава канца 10—1-й пал. 11 ст. з **Заслаўя.**

ў зямлю на 0,3—0,5 м. Знойдзены жал. нажы, шылы, рыбалоўныя кручкі, шпількі з S-падобнымі галоўкамі, крукападобны разец, бронзавыя пінцэты, спіралепадобны пярсцёнак, фрагмент кручанай грыўні, трапецападобныя падвескі, абломкі шліфаваных клінападобных і прасвідраваных сякер, тачыльныя камяні, фрагменты тыгляў, гліняныя праслíцы, ляпная (з расчосамі, гладкай і шурпатай паверхняй) і ганчарная кераміка. Шмат жал. шлакаў, крыц і кавалкаў сплаў.

Селішча датуецца 2-й пал. 1-га — пач. 2-га тысячагоддзя н. э.

Курганны могільнік. За 1 км на Пд ад цэнтра вёскі, у лесе. Мясц. назва Капцы. 96 круглых насыпаў дыям. ад 4 да 15 м, выш. ад 0,4 да 1,5 м (пераважаюць дыям. 7—10 м, выш. 0,6—1 м). Раўкі апоўзлыя, камянёў на схілах і каля асновы няма. У 1895 Ф. В. Пакроўскі даследаваў 20 курганоў (тады могільнік налічваў каля 200 насыпаў), у 1934 К. Салевіч — 21 курган, у 1976 Я. Г. Звяруга — 11. Пахавальны абрад — трупаспаленне на грунце (пераважна) і ў насыпе. Колькасць пахаванняў — ад 1 да 6.

Пахавальны інвентар — прадметы ўзбраення і рыштунку (сякеры, наканечнікі коп'яў, кінжалы, меч з ножнамі, умбоны шчытоў, шпоры, страмёны, цуглі), прылады працы (сярпы, нажы, шылы, іголкі, гліняныя праслíцы), упрыгожанні (грыўні, бранзалеты, пярсцёнкі, фібулы, спражкі, спіралькі, трапецападобныя падвескі, званочкі, пацеркі). Знойдзена ляпная ганчарная кераміка. Пакроўскі ўскрыў 1 пахаванне па абраду трупапалажэння, галавой на З; пахавальны інвентар — жал. нож, бронзавы пярсцёнак, пасярэбраная шкляная пацерка, гліняны кругавы гаршчок, каменная сякера і праслíца.

Могільнік належаў балцкаму насельніцтву і толькі асобныя пахаванні, магчыма, славянам. Датуецца 6—12 ст.

*Літ.:* 424, 426, 428, 429, 914, 1441.

*Я. Г. Звяруга.*

**ЗАСЛА́ЎЕ,** горад у Мінскім р-не, на р. Свіслач, каля Заслаўскага вадасховішча. За 22 км на ПнЗ ад Мінска, чыг. ст. Беларусь на лініі Мінск — Маладзечна.

На падставе археал. даследаванняў высветлена, што ў 10 ст. на правым беразе Свіслачы (у межах сучасных вуліц Савецкай, Луначарскага і Паштовай) існавала неўмацаванае паселішча пл. каля 3—3,5 га, населенае пераважна крывічамі. У сярэдзіне 10 ст. на процілеглым (левым) беразе Свіслачы засн. пагост — неўмацаваны велікакняжацкі адм.-гасп. пункт. Каля 985 на правым беразе Свіслачы, за 1 км на ПдЗ ад паселішчаў узнікла ўмацаванае паселішча *Заслаўскае гарадзішча «Замэчак»*. Да канца 11 ст. тэр. неўмацаванага паселішча павялічылася да 8—9,5 га. Ізяслаў меў т. зв. разгрупаваную планіровачную структуру — ваенна-адм. цэнтр быў адарваны ад пасада. Дарогі, што злучалі паселішча, гарадзішча «Замэчак» і курганныя могільнікі (гл. *Заслаўскія курганныя могільнікі*) сталі асновай стараж. вулічнай сеткі, якая з-за складанага рэльефу аказалася вельмі ўстойлівай. У канцы 11 ст. на тэр. правабярэжнага паселішча ўзведзены дзядзінец, пасля чаго гарадзішча «Замэчак» было пакінута насельніцтвам. З. набыло тыповую для тагачасных усх.-слав. гарадоў планіровачную структуру: дзядзінец і пасад. У 12 — 1-й пал. 13 ст. тэр. горада павялічылася да 12 га. На яго паўд. ускраіне знаходзіліся могілкі. У 2-й пал. 13 ст. горад быў спалены, пачаўся яго заняпад. Насельніцтва сканцэнтравалася на дзядзінцы, пасад быў заселены часткова, яго левабярэжную частку насельніцтва пакінула. З канца 15 — пач. 16 ст. адбываецца новы росквіт горада. Больш шчыльнай стала забудова пасада, пашырылася яго тэрыторыя, што сведчыць аб павелічэнні колькасці насельніцтва. У 16 ст. ўмацаваная частка горада стала ўладальніцкім замкам (гл. *Заслаўскі замак*). Цэнтрам планіровачнай структуры горада з 16 ст. была рынчная пло-

шча. Напач. 17 ст. непадалёку ад яе пабудаваны драўляныя Спаса-Праабражэнская царква (1619) і касцёл Дзевы Марыі (1625, у 1774—79 на яго месцы збудаваны мураваны). У горадзе жылі рамеснікі, гандляры, шляхта, духавенства. Частка тэрыторыі знаходзілася пад касцельнай юрысдыкцыяй. У 1678 у З. засн. дамініканскі кляштар, да якога перайшоў касцёл Міхаіла Архангела (б. кальвінскі збор) і зах. частка замка. У 17 ст. пабудаваны маёнтак Заслаўе — загарадная рэзідэнцыя ўладальнікаў горада. Перабудаваны ў 18 ст., ён складаўся з палацава-паркавага (палац, флігелі, верхні і ніжні паркі са штучнымі ставамі) і гасп. комплексаў, аддзеленых адзін ад аднаго дарогай на Ракаў (цяпер вуліца Савецкая на ўчастку ад чыгункі да р. Княгінькі). У канцы 18 — пач. 19 ст. ў З. пабудавана драўляная Спаса-Мікалаеўская царква.

Археал. даследаванні З. і наваколля праводзілі ў 1878 Р. Г. Ігнацьеў, у 1880-я г. М. М. Турбін, у 1921 В. П. Сушчынскі, у 1926 А. М. Ляўданскі, у 1957, 1962, 1965 Э. М. Загарульскі, у 1960, 1967—70 Г. В. Штыхаў, у 1977—83, 1988—90 Ю. А. Заяц, у 1978 А. А. Трусаў. Даследавана 5295 м$^2$, у т. л. 2444 м$^2$ тэр. пасада.

У культурных пластах выяўлены рэшткі жылых і гасп. пабудоў, драўляныя насцілы і маставыя, частаколы 12—17 ст. Знойдзеныя пацеркі (са шкла, сердаліку, крышталю, бурштыну), шыферныя прасліцы, упрыгожанні з каляровых металаў, аморфная кераміка, сярэбраныя і залатыя манеты сведчаць пра шырокія гандл. сувязі З. Выяўлены сляды разнастайных рамёстваў і промыслаў: майстэрні, прылады працы, вырабы, адходы вытворчасці. З моманту заснавання паселішча ў З. развіваліся ювелірнае і металаапрацоўчыя рамёствы, ганчарства, выраблялісятканіны, розныя рэчы з дрэва, косці і рога. Знойдзены сляды скураапрацоўчай вытворчасці. У 15 ст. пачалася вытворчасць кафлі. У горадзе выраблялася папера, была друкарня. У 2-й пал. 17—18 ст. горад, нягледзячы на спробы яго ўладальнікаў ажывіць эканоміку, прыйшоў у заняпад і ператварыўся ў невял. мястэчка. На ўскраіне З.— *Заслаўскі бескурганны могільнік.*

У летапісах З. ўпамінаецца з 1127 (Ізяславль, Жеславль, Жаславль) у сувязі з тым, што горад быў абложаны шматлікімі войскамі, накіраванымі кіеўскім князем Мсціславам Уладзіміравічам. Аднак З. існаваў задоўга да гэтага ўпамінання, аб чым сведчыць летапіснае паданне, якое апавядае пра драматычныя падзеі 10 ст., звязаныя з Рагнедай і яе сынам Ізяславам, і называе заснавальнікам горада кіеўскага кн. Уладзіміра Святаславіча. Верагодна, з пач. 12 ст. горад быў цэнтрам Ізяслаўскага ўдзельнага княства Полацкай зямлі. У сярэдзіне 12 ст. горад і княства сталі аб'ектам барацьбы паміж полацкім і менскім князямі. Верагодна, у канцы 13 ст. З. ўвайшло ў склад ВКЛ. З 1345 З.— прыватнаўласніцкі горад. Першым яго ўладальнікам быў кн. Яўнут Гедымінавіч, нашчадкі якога зваліся князямі Заслаўскімі. У 1433 горад спалены войскамі кн. Свідрыгайлы. З 1539 З. належала адной з галін роду Глябовічаў. З 1569 у складзе Менскага пав. З 1678 горадам валодалі Сапегі, з 1753 — Пшаздзецкія. У 1793 у выніку 2-га падзелу Рэчы Паспалітай увайшло ў склад Расійскай імперыі. Стараж. частка горада, археал. і архіт. помнікі ўключаны ў *Заслаўскі гісторыка-культурны запаведнік.*

*Літ.:* 415. *Ю. А. Заяц.*

**ЗАСЛА́ЎСКАЕ ГАРАДЗІ́ШЧА «ЗАМЭЧАК»,** археал. помнік 10—11 ст. каля г. Заслаўе Мінскага р-на. Размешчана на паўд.-зах. ускраіне горада паміж вуліцамі Кірава і Мінскай, на ўзгорку, які на 24 м узвышаецца над балоцістай поймай р. Чарніца, займае вяршыню і паўн.-ўсх. схіл узгорка. Пляцоўка круглая, пл. 0,38 га. У гады Вял. Айчыннай вайны значна пашкоджана. Умацавана кальцавым валам выш. да 3 м, шыр. 13 м (схіл з боку поля 35—40°, з боку пляцоўкі 30°) і ровам шыр. 11 м і глыб. 3,5 м. На пляцоўцы ўздоўж вала ў некаторых месцах выяўлены каменныя вымасткі шыр. 1—1,5 м. Роў вадой не запаўняўся. На схіле вала існаваў нахілены вастракол з бярвён дыям. да 15 см. На грэбені вала, верагодна, былі драўляныя абарончыя сцены. Праезд на гарадзішча шыр. 4,5 м размяшчаўся з найменш даступнага паўн.-ўсх. боку. Абследавана ў 1850-я г. Раскопкі праводзілі ў 1926 А. М. Ляўданскі, у 1962 Э. М. Загарульскі, у 1967 і 1970 Г. В. Штыхаў, у 1978, 1979, 1981 і 1988 Ю. А. Заяц. Даследавана 1240 м$^2$, зроблена прарэзка вала і рова. Культурны пласт 0,3—0,75 м.

Знойдзены вырабы з чорных і каляровых металаў, шкла, каменю, сляды вытворчасці ці апрацоўкі жалеза, керамічны посуд 9—11 ст., а таксама матэрыялы 16—18 ст. Вывучана ўнутраная планіроўка гарадзішча ў 10—11 ст. У паўд. частцы пляцоўкі жылыя пабудовы размяшчаліся ўздоўж вала ў 2 рады, у паўн. частцы, дзе пляцоўка рэзка паніжалася,— у адзін рад уздоўж мяжы паніжэння. Дамы былі наземныя, зрубныя, некаторыя з іх двухкамерныя. Захаваліся развалы печаў глінабітных і каменак, падпольныя і прыпечныя ямы. У час паўторнага засялення гарадзішча ў 16—18 ст. выкарыстоўвалася яго паўн.-ўсх. частка. Умацаванні ўзведзены ў 2-й пал.— канцы 10 ст. Гэта дазваляе лічыць гарадзішча рэшткамі стараж. горада Ізяслава, пабудаванага кн. Уладзімірам Святаславічам для Рагнеды і Ізяслава. Адыгрываў ролю парубежнай крэпасці, адм. і ваеннага цэнтра акругі, на аснове якой утварылася Ізяслаўскае княства. У канцы 11 ст. гарадзішча пакінута насельніцтвам, відаць, у сувязі з пабудовай новага ўмацаванага цэнтра (гл. *Заслаўскі замак*).

*Літ.:* 414. *Ю. А. Заяц.*

**ЗАСЛА́ЎСКІ БЕСКУРГА́ННЫ МО́ГІЛЬНІК,** археал. помнік *банцараўскай культуры* на ўскраіне г. Заслаўе Мінскага р-на. На паўд.-ўсх. ускраіне горада паміж вуліцамі Мінскай і Кірава, на вяршыні пагорка. Пашкоджаны разворваннем. Выявіў і даследаваў у 1979 Ю. А. Заяц. Пахавальны абрад — трупаспаленне па-за межамі могільніка.

Рэшткі крэмацыі змяшчалі ў невял. ямках дыям. да 0,3 м і глыб. да 0,2 м. Пахавальны інвентар: бронзавыя спіральныя пранізкі, фрагменты інш. упрыгожанняў, глінянае біканічнае праслица. Знойдзены фрагменты ляпных гаршкоў, якія, верагодна, выкарыстоўваліся ў якасці урнаў. У канцы 10 ст. на тэр. могільніка пабудавана ўмацаванае паселішча.

*Літ.:* 414. *Ю. А. Заяц.*

**ЗАСЛА́ЎСКІ ГІСТО́РЫКА-КУЛЬТУ́РНЫ ЗАПАВЕ́ДНІК.** Створаны ў г. Заслаўе Мінскага р-на ў 1986 на базе Заслаўскага гіст.-археал. запаведніка (створаны ў 1967). Уключае *Заслаўскі замак, Заслаўскае гарадзішча «Замэчак», Заслаўскі курганны могільнік*, будынак кальвінскага збору 16 ст. (з 1865 Спаса-Праабражэнская царква), фарны касцёл св. Марыі (1744), флігель палаца Пшаздзецкіх (17 ст.), гіст. частку горада 10—13 ст. са стараж. вулічнай сеткай, драўляныя пабудовы 19 — пач. 20 ст., паравы млын пач. 20 ст., кулямётныя і артылерыйскія доты (1928—37). На тэр. запаведніка дзейнічаў *Заслаўскі музей рамёстваў і народных промыслаў.* У фондах запаведніка археал. знаходкі з раскопак на тэр. горада ў 1988—89, у т. л. металічныя вырабы, архіт.-дэкаратыўная і бытавая кераміка, вырабы з косці і рога, манеты 17—18 ст.

*Літ.:* 390.

**ЗАСЛА́ЎСКІ ЗА́МАК,** комплекс абарончых збудаванняў 11—17 ст. у г. Заслаўе Мінскага р-на. Размяшчаўся на беразе р. Свіслач, на паўн. ускраіне старой часткі горада (паміж сучаснымі вуліцамі Паштовай і Рабочай), у месцы, дзе рака цячэ па балоцістай нізіне і найб. блізка падыходзіць да ўзвышша, на якім знаходзіцца горад. Сярод мясц. насельніцтва вядомы пад назвай Вал. Замкавы палігон пл. каля 1,5 га. Мае форму чатырохвугольніка (даўж. бакоў 188, 166, 90 і 60 м). Першапачатковыя ўмацаванні ўзведзены на рубяжы 11—12 ст. Валы выш. 3—3,5 м насыпаны з пяску, іх схілы ўмацаваны пластом гліны і каменнем. На асобных участках вал умацоўваўся ўнутранымі драўлянымі канструкцыямі. На падставе стратыграфічнага вывучэння абарончых збудаванняў вылу-

чаны 4 перыяды іх будаўніцтва і перабудовы: у 2-й пал. 13 ст., у 14 ст., у канцы 16 ст. і, магчыма, напач. 17 ст.; зафіксаваны таксама сляды аднаўленчых работ пасля нападаў на горад у 1127 і 1434. У выніку ўсіх перабудоў выш. вала да канца 16 ст. дасягала 8—9,5 м. У час апошняй перабудовы ўзведзены бастыённыя ўмацаванні. Гал. уезд у замак знаходзіўся з паўд. боку, паміж паўн.-ўсх. вуглавым і паўкруглым бастыёнамі. Ён быў умацаваны 2-павярховай мураванай брамай з арачным праёмам. Брама памерам 24,7×22,8 м. Праезд шыр. 7 м падзяляў ніжні паверх на 2 часткі, у кожнай з іх было па 3 памяшканні. Фундамент брамы заглыблены ў зямлю на 1,1 м; ніжняя частка сцен выканана ў тэхніцы мяшанай муроўкі з цэглы-пальчаткі і камянёў, верхняя — у тэхніцы рэнесансавай муроўкі. Таўшч. фасаднай сцяны брамы 2,4 м, бакавых сцен 1,2—1,3 м. Накрыта плоскай дахоўкай. Уздоўж зах. сцяны брамы выяўлены падземны тунель шыр. 0,8 м, выш. 0,8 м са стральчатым скляпеннем. Сцены, скляпенні і падлога тунеля з цэглы, уваход прамавугольны, падобны на калодзеж, памерам 2,1×1 м, абмураваны цэглай. Тунель, верагодна, быў звязаны з брамай і выконваў ролю дрэнажнай сістэмы. У паўн. напрамку ён завяршаўся глухой сцяной, з Пд, дзе быў выхад у роў, тунель перакрыты наглуха ўмацаванымі жал. кратамі. Брама пабудавана ў канцы 16 — пач. 17 ст. Пасля 1650 яна была пашкоджана пажарам. Час разбурэння брамы вызначыць цяжка. У 19 ст. на яе месцы існавала мураваная брама малых памераў з вузкім арачным праездам. Да брамы з абодвух бакоў былі прыбудаваны мураваныя сцены, якія перакрывалі разрыў у паўд. курціне. На месцы паўн. праезда з абодвух бакоў выяўлены і часткова даследаваны рэшткі малой мураванай брамы. Характар буд. матэрыялаў і тэхніка муроўкі дазваляюць меркаваць, што яна пабудавана адначасова з паўд. брамай. Магчыма, на З ад яе быў дадатковы бастыён. Час пабудовы і разбурэння брамы таксама не высветлены. У 2-й пал. 16 — пач. 17 ст. ўзведзены мураваны кальвінскі збор і мураваная пабудова, рэшткі якой адкрыты ў час раскопак усх. пляцоўкі замка. Руіны знаходзяцца на восі праездаў, дзе ў бастыённых замках звычайна будаваліся палацы. Ад горада замак быў аддзелены шырокім ровам. З канца 16 ст. тэрыторыя вакол замка была заліта вадой штучнага возера, утворанага з дапамогай плацін на рэках Свіслач і Чарніца. Такім чынам замак ператвараўся ва ўмацаванне астраўнога тыпу. З горадам яго злучаў мост, апошні пралёт якога, відаць, быў пад'ёмным. Мост і падыходы да брамы фланкіраваліся з дадатковага і паўд.-ўсх. бастыёнаў. Умацаванні З. з. не належаць да канкрэтнай бастыённай сістэмы.



**Заслаўскі замак.** Малюнак В. П. Сташчанюка па матэрыялах Ю. А. Зайца.



Кафля 1570-х г. з **Заслаўскага замка.**





Кафля 1584—90 з **Заслаўскага замка.**



**Паліхромнае наверша пліты 1580-х г. з Заслаўскага замка.**

Яны ўключаюць элементы некалькіх сістэм, што характэрна для замкаў, дзе бастыёны спалучаліся з больш раннімі ўмацаваннямі. Палігон замка ўключаў у сябе 3 пляцоўкі рознай вышыні. Перапад вышынь паміж цэнтр. (ніжняй) і крайнімі (зах. і ўсх.) пляцоўкамі ў 12 ст. дасягаў 8 м. Культурны пласт з верхніх пляцовак перыядычна знімаўся і выкарыстоўваўся для ўмацавання валоў. З-за гэтага розніца ва ўзроўні пляцовак да канца 17 ст. зменшылася да 4,5—6,8 м. У цэнтр. частцы замка магутнасць культурных напластаванняў дасягае 5,5—6 м. Яны ўтрымліваюць матэрыялы 10—18 ст. (пласт 10—11 ст. утварыўся ў час існавання на месцы замка неўмацаванага паселішча). Выяўлены рэшткі драўляных зрубных пабудоў 12—17 ст. (захаваліся на 2—7 вянкоў), вулічная драўляная маставая, фундаменты і развалы кафляных печаў, сляды пажараў у выглядзе гарэлага дрэва і вугалёў. Знойдзены разнастайныя рэчы, якія характарызуюць заняткі і побыт насельніцтва замка: наканечнікі коп'яў і стрэл, страмёны і шпоры, прылады працы рамеснікаў, керамічны і шкляны посуд, разнастайныя вырабы з жалеза, каляровых металаў, рога і косці, шкла, каменю, скуры, манеты, у т. л. залатыя алтуны і дукат 16 ст.

На падставе комплекснага вывучэння можна лічыць, што ў 12—13 ст. гэта ўмацаванае паселішча было дзядзінцам летапіснага Ізяслаўля, на адной з яго верхніх пляцовак знаходзіўся княжацкі двор. У 14—15 ст. умацаванні адыгрывалі ролю гар. замка, з 16 ст.— уладальніцкага замка, дзе размяшчалася рэзідэнцыя ўладальнікаў горада. У 1676 зах. палавіна замка перададзена заслаўскаму кляштару дамініканцаў, які фундавалі Крысціна Барбара Глябовіч і яе муж Казімір Ян Сапега. У 18 ст. замак страціў сваё ваеннае значэнне, рэзідэнцыя ўладальнікаў горада была канчаткова перанесена ў загарадную сядзібу. Археал. даследаванні З. з. праводзілі ў 1921 В. П. Сушчынскі, у 1927 А. М. Ляўданскі, у 1965 Э. М. Загарульскі, у 1967—68, 1970—71 Г. В. Штыхаў, у 1972 С. А. Адамовіч і У. А. Гілеп, у 1980—83 Ю. А. Заяц. Помнікі манументальнага дойлідства на тэр. замка даследавалі Г. В. Штыхаў, А. А. Трусаў, Ю. А. Заяц. Раскопкамі вывучана пл. 1600 м².

*Літ.:* 415, 1226. *Ю. А. Заяц.*

**ЗАСЛАЎСКІ МУЗЕЙ РАМЁСТВАЎ І НАРОДНЫХ ПРОМЫСЛАЎ.** Існаваў у 1978—90 у г. п. Заслаўе Мінскага р-на як філіял Дзяржаўнага музея Беларускай ССР. Размяшчаўся на тэр. *Заслаўскага гісторыка-культурнага запаведніка* ў будынку б. Спаса-Праабражэнскай царквы, пабудаванай у 16 ст. Меў 2 выставачныя залы (пл. 346,5 м²). Матэрыялы 1-й залы знаёмілі з гісторыяй бел. гарадоў: карта Беларусі, выявы гербаў гарадоў, якія мелі магдэбургскае права. У экспазіцыі 2-й залы было больш за 900 твораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва і нар. рамёстваў 10 — пач. 20 ст. Найб. каштоўнасць маюць вырабы, знойдзеныя ў час археал. раскопак гарадоў і могільнікаў на Беларусі, у т. л. ўпрыгожанні 10—13 ст. з металу, шкла, сердаліку: скроневыя кольцы, шыйныя грыўні, бранзалеты, пацеркі, пярсцёнкі, амулеты, падвескі. Экспанавалася кап'ё 11 ст., наканечнікі стрэл 10—12 ст., крыжыкі 11—13 ст., ліцейныя формачкі, тыглі 13 ст., ганчарны (12—13 ст.) і шкляны (18—20 ст.) посуд, прадметы побыту з рога і косці 10—17 ст., паліхромная кафля 16—17 ст., дэталі збруі 16—17 ст., вырабы бел. злотнікаў (пацір 16 ст., напрастольны крыж 1625 з Навагрудка). Былі прадстаўлены таксама прылады працы, творы традыцыйных промыслаў і рамёстваў канца 19 — пач. 20 ст. Расфарміраваны ў сувязі з перадачай царквы праваслаўнай абшчыне. *А. А. Гурбо.*

**ЗАСЛАЎСКІЯ КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ,** група археал. помнікаў на тэр. г. Заслаўя і ў яго ваколіцах. Захаваліся даныя пра 10 курганных могільнікаў і 2 адзінкавыя курганы, усяго 367 насыпаў. Значная колькасць курганоў знішчана яшчэ да пачатку ўліку і пашпартызацыі археал. помнікаў. Мяркуецца, што спачатку тут было прыкладна 800—1000 насыпаў. Даследавалі ў 1878 Р. Г. Ігнацьеў, у 1880-я г. М. М. Турбін, у 1921 В. П. Сушчынскі і І. П. Поляк, у 1926 і 1928 А. М. Ляўданскі, С. А. Дубінскі, П. В. Харлamповіч і А. Дз. Каваленя, у 1957, 1965 Э. М. Загарульскі, у 1960, 1967, 1971 Г. В. Штыхаў, у 1977—80, 1982 Ю. А. Заяц. Ёсць звесткі пра раскопкі 142 курганоў. Захаваліся рэшткі 8 курганных груп і 2 асобныя курганы (усяго — 45). Большасць з іх у значнай ступені пашкоджаны.

Курганны могільнік-1. За 250 м на ПдУ ад Гарадзішча «Замэчак», на вяршыні і ўсх. схіле ўзвышша. Раней было 28 курганоў. Захавалася 12 круглых насыпаў выш. да 2 м, дыям. да 14 м і прадаўгаваты памерам 14×10,5×1,8 м. Пахавальны абрад — трупапалажэнне галавой на З на гарызонце, на месцы рытуальнага вогнішча. У прадаўгаватым і адным з круглых курганоў выяўлены двайныя пахаванні (у прадаўгаватым насыпе ў драўлянай агароджы).



Скроневыя кольцы з **Заслаўскіх курганных могільнікаў.**

Пахавальны інвентар: жал. наканечнік кап'я, сякеры, нажы, крэсіва, бронзавыя ўпрыгожанні, шкляныя і сердалікавыя пацеркі, ганчарны посуд.

Датуецца канцом 10—11 ст.

Курганны могільнік-2. У паўд. частцы горада, паміж краем могілак і стадыёнам, у напрамку р. Чарніца. У 1926 было 122, захавалася 10 курганоў. Самыя вял. курганы выш. 2 м, дыям. 10,5 м, меншыя дыям. 5—6 м, выш. 0,6—0,8 м. Пахавальны абрад — трупа-

палажэнне ў насыпе, падкурганных ямах і на гарызонце (часта на месцы рытуальнага вогнішча), часам пад шкілетамі выяўлены рэшткі драўніны. Пахаванні адзіночныя, трапляюцца двайныя, у адным кургане — трайныя. Арыентацыя нябожчыкаў заходняя, усходняя і мерыдыяльная. У адным насыпе выяўлены пахаванні па абраду трупапалажэння і трупаспалення (рэшткі апошняга былі ў глінянай пасудзіне). У мужчынскіх пахаваннях знойдзены жал. коп'і і сякеры, сярэбраны дырхем, у жаночых — каралі са шкляных і сердалікавых пацерак, бронзавыя і жал. грыўні, бранзалеты, падвескі, пярсцёнкі, скроневыя кольцы (бранзалетападобныя з завязанымі канцамі). Могільнік датуецца 10 — 1-й пал. 11 ст. Большасць пахаванняў належыць крывічам.

Курганны могільнік-3. За 150 м на У ад могільніка-2, на беразе р. Свіслач. У 1926 было 86 курганоў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце (на месцы рытуальнага вогнішча). У адным з курганоў выяўлена 2 пахаванні: па абрадах трупапалажэння і трупаспалення. У мужчынскіх пахаваннях былі жал. коп'і, сякеры, бронзавыя фібулы, у жаночых — крывіцкія бранзалетападобныя кольцы з завязанымі канцамі, бронзавыя шыйныя грыўні, шкляныя пацеркі. Могільнік датуецца 10 — 1-й пал. 11 ст. Нязначная адлегласць ад могільніка-2, агульныя рысы пахавальнага абраду, ідэнтычнасць этнавызначальнага інвентару дазваляюць лічыць абодва могільнікі рэшткамі аднаго вял. курганнага могільніка крывічоў.

Курганны могільнік-4. На паўд.-зах. ускраіне горада, злева ад аўтадарогі Мінск — Вільнюс. Было 33 курганы, захавалася 19 круглых насыпаў выш. 0,5—2 м, дыям. 4—12 м, адзін насып прадаўгаваты, памеры 13,5×6×0,5 м. Вакол большасці курганоў прасочваюцца кальцавыя ці дугападобныя раўкі са слядамі вогнішчаў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце галавой на З (у адным выпадку галавой на Пд), на месцы рытуальнага вогнішча ці на падсыпцы. Выяўлены двайныя і трайныя пахаванні ў адным насыпе.

Пахавальны інвентар: упрыгожанні з каляровых металаў, шкла і каменю, рэшткі драўляных вёдзер, ганчарны посуд. Сярод упрыгожанняў металічныя дрыгавіцкія філіграннья пацеркі, скроневыя кольцы (пярсцёнкападобныя, S-канцовыя і пярсцёнкападобныя з завітком на канцы).

Могільнік датуецца канцом 10—11 ст.

Курганны могільнік-5. Насупраць замка, на левым беразе канала Вілейска-Мінскай воднай сістэмы. Было 23 курганы, захавалася 18 насыпаў выш. 0,4—1,7 м, дыям. 4—10 м. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце галавой на З (у адным на У), на месцы рытуальнага вогнішча ці ў падкурганнай яме. У 2 курганах двайныя пахаванні. Пахавальны інвентар: упрыгожанні з каляровых металаў (у т. л. пярсцёнкападобныя і S-канцовыя скроневыя кольцы) і шкла, прадметы побыту з жалеза і косці, ганчарны посуд. Могільнік датуецца 11 (ці канцом 10) — 1-й чвэрцю 12 ст.

Курганны могільнік-6. За 1 км на ПнУ ад замка. Былі 44 насыпы, захавалася 6 курганоў выш. 0,5—2 м, дыям. 6—17 м. Пахавальны абрад — трупапалажэнне галавой на З (радзей на У) на гарызонце, часта на месцы рытуальнага вогнішча.



Шкляныя пацеркі 11 ст. з **Заслаўскіх курганных могільнікаў.**

Пахавальны інвентар: жал. сякеры, нажы, крэсіва, упрыгожанні з каляровых металаў, шкла і бурштыну, гліняны посуд, рэшткі драўляных вёдзер. Знойдзены 2 гліняныя гаршкі з клеймамі ў выглядзе двухзубца (знак Рурыкавічаў), рамесніцкія інструменты, філіграння металічныя пацеркі, сярэбраныя дэнарыі Стэфана I (Венгрыя), Атона і Адэльгейды (Германія).

Датуецца 2-й пал. 10 — пач. 12 ст.

Курганны могільнік-7. За 1,5 км на ПдЗ ад гарадзішча «Замэчак», у вярхоўі р. Чарніца, у лесе. 10 насыпаў выш. 0,5—1,7 м, дыям. 5—10 м. Каля асновы асобных курганоў з трох бакоў выяўлены ямы ў форме паўмесяца, да палавіны запоўненыя попелам ад рытуальнага вогнішча. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце галавой на З і Пн, на месцы рытуальнага вогнішча. У адным кургане выяўлена двайное пахаванне.

Пахавальны інвентар: бронзавае навершa булавы, крук для падвешвання зброі, жал. нажы, крэсіва, тачыльны брусок, бронзавы пярсцёнак, касцяны грэбень.

Датуецца 10—11 ст.

Курганны могільнік-8. За 1 км на У ад гарадзішча «Замэчак», у лесе. 7 насыпаў выш. 0,5—1,2 м, дыям. 3,5—8,5 м. Каля асновы асобных насыпаў выяўлены сляды кальцавых раўкоў.

Курганны могільнік-9. За 1,5 км на Пд ад гарадзішча «Замэчак», у лесе, 7 насыпаў, з іх 6 круглых выш. 0,4—1,2 м, дыям. 4—8 м, адзін з іх прадаўгаваты, памеры 9×6,5×1,13 м. Каля аднаго кургана выяўлены ямы ў форме паўмесяца з попелам ад рытуальнага вогнішча. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце, галавой на З і Пд, на месцы рытуальнага вогнішча. У адным насыпе выяўлена двайное, у прадаўгаватым — упускное пахаванні. Усе пахаванні жаночыя.

Пахавальны інвентар: сярэбраныя і бронзавыя ўпрыгожанні, шкляныя, сердалікавыя, хрусталёвыя пацеркі, скроневыя кольцы (пярсцёнкападобныя з крукападобнымі канцамі, пярсцёнкападобныя з завітком на канцы і спіральнай ці ажурнай аплёткай, спіралеканцавыя трохпацеркавыя), ганчарны посуд.

Датуецца 2-й пал. 10—11 ст.

Курганны могільнік-10. За 2 км на Пд ад гарадзішча «Замэчак», у вярхоўі р. Чарніца. 3 круглыя і адзін прадаўгаваты курган. Усе насыпы пашкоджаны. Выш. круглых насыпаў 0,9—1,2 м, дыям. 6 м, памеры прадаўгаватага 11,65×7,65×1,35 м. Уздоўж яго выяўлены раўкі. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце, на месцы рытуальнага вогнішча. У прадаўгаватым насыпе асн. пахаванне арыентавана па падоўжнай восі кургана, другое, упускное,— па папярочнай. Пахавальны інвентар: упрыгожанні з каляровых металаў (бранзалет, пярсцёнак, падвескі, пярсцёнкападобныя скроневыя кольцы з завіткамі на канцы і без іх), шкляныя пацеркі, ганчарны посуд. Датуецца 2-й пал. 10 — 1-й пал. 11 ст.

Курган-1. За 1,6 км на ПдУ ад гарадзішча «Замэчак», каля правага берага р. Чарніца. Памеры 10,5×9,5×1,3 м.

Курган-2. Каля паўд. краю могілак. Выш. 1,1 м, дыям. 8 м. Пашкоджаны.

*Літ.:* 415, 417,716. *Ю. А., Заяц*

**ЗАСОЎЕЎСКІ МАНЕТНЫ СКАРБ.** Знойдзены ў в. Засоўе Лагойскага р-на ў 1974. У гаршку з зялёнай палівай (зберагліся рэшткі) захавалася 741 сярэбраная, 8 залатых і 5 *манет фальшывых.*

Вял. кн. Літоўскае. Аляксандр Ягелончык [1492—1506] — *паў-*

*грош літоўскі;* Жыгімонт II Аўгуст — паўгрошы літоўскія (5 экз.) 1556, 1557, 1560, 1565, траякі літоўскія (11 экз.) 1562, 1563, 1564, чворак літоўскі 1566; контрамаркіраваныя паўталеры (4 экз.) Іспаніі (гл. *Талеры «спадчыны каралевы Боны»*) Карла I [1519—56] і Філіпа II [1556—98]. Рэч Паспалітая. Стэфан Баторый — траякі літоўскія (25 экз) 1580—86, польскія (6 экз.) 1583, 1584, 1586, рыжскія (30 экз.) 1581, 1583—86; Зыгмунт III Ваза — траякі літоўскія (44 экз.) 1590—99, 1601, польскія (406 экз.) 1588—1605, з невыразнымі датамі і недатаваныя, рыжскія (148 экз.) 1589—1600, з невыразнай датай, грош польскі 1604, шастакі (31 экз.) 1596, 1599, 1601. Браўншвейг-Вандэльбютэль (герцагства), Генрых Юлій — талеры 1593, 1600. Венгрыя, Янаш Запальян — *дукат* 1540. Германская імперыя, Рудольф II, чаканка імперскіх гарадоў: Гамбург — сярэбраныя *гульдэны* 1585, 1607, Кёльн — *талер* 1577, Кампен — дукат 1598. Іспанія — *макукіна* 16 ст. Іспанскія Нідэрланды, Філіп II — *патагон* 1567, контрамаркіраваны гербам Зеландыі (гл. *Контрамаркіраванне манет*), паўпатагон Гельдэрна 1567. Карынтыя (эрцгерцагства), Карл — дукат 1576. Курляндыя (герцагства), Фрыдрых і Вільгельм — трайныя грошы (5 экз.) 1599, 1600, 1606. Саксонія (курфюрства), Аўгуст — талеры 1562, 1570, 1573, 1580; Хрысціян I — талер 1589; Хрысціян II, Іаан Георг і Аўгуст — талеры 1592, 1599, 1600, 1603, 1605; Іаан Казімір і Іаан Эрнст — талеры 1591, 1593. Злучаныя Правінцыі (Галандская рэспубліка), Вестфрызія — *рыксдаальдэры* 1596 — 1598; Галандыя — дукаты 1603, 1608; Утрэхт — дукат 1608. Цешын (герцагства), Адам Вацлаў — трояк 1596. Трансільванія (княства), Стэфан Бачкай — трайны грош 1608. Чэхія (каралеўства), Рудольф II — паўталер 1590. Турцыя (Асманская імперыя), Мухамед III — залаты алтун 1595. Фальшывыя манеты — падробкі паўгроша літоўскага Жыгімонта II Аўгуста [1545—72], траякоў каронных польскіх (3 экз.) 1600, 1601 і рыжскага 1599 Зыгмунта III Вазы. Скарб ухаваны ў 17 ст., не пазней 1608. Захоўваецца ў Нумізматычным кабінеце БДУ. *В. Н. Рабцэвіч.*

**ЗА́СПА,** археал. помнікі каля в. Заспа Рэчыцкага р-на.

Гарадзішча-1. На правым беразе Дняпра, ва ўрочышчы Гарадок. Даследаваў у 1957 Л. Д. Побаль. Пляцоўка ромбападобная, памер 80×80 м. З боку поля ўмацавана валам (цяпер разараны). Знойдзены матэрыялы мілаградскай і ранняга этапу зарубінецкай культур. З паўн. боку да гарадзішча (урочышча Цагельня) прымыкае селішча, адначасовае гарадзішчу (разарана). На Пн ад гарадзішча выяўлены кальцыніраваныя косці, што можа сведчыць пра знаходжанне тут бескурганнага могільніка з абрадам трупаспалення.

Гарадзішча-2. У цэнтры вёскі. Умацавана дугападобным валам выш. каля 2 м. Знойдзены матэрыялы ранняга жал. веку і эпохі Кіеўскай Русі.

Паміж вёскамі Заспа, Янаўка, Сцяпанаўка У. З. Завітневіч у канцы 19 ст. даследаваў 202 курганы (усе разараны) і селішча з вял. колькасцю керамікі. Ва ўрочышчы Уборак выяўлена селішча. Даследавала В. М. Мельнікоўская. Знаходкі адносяцца да мілаградскай і зарубінецкай культур, эпохі Стараж. Русі. Гэтае селішча атаясамліваюць з тым, што даследаваў Завітневіч.

У в. Заспа на правым беразе Дняпра М. У. Бычкоў у 1981 знайшоў ляпную кераміку позняга этапу зарубінецкай культуры, 2 рымскія пацеркі (сіняя і двухколерная — звонку чырвоная, унутры белая), бронзавае кольца. *Л. Д. Побаль.*



**Заслаўскі манетны скарб.**

**ЗАСЯЛЕ́ННЕ ПЕ́РШАСНАЕ** тэрыторыі Беларусі. Час, калі чалавек упершыню паявіўся на тэр. Беларусі, дакладна вызначыць немагчыма. Гэтая падзея магла адбывацца ў любы перыяд міжледавіковўяў плейстацэну. Найбольш стараж. прыладамі, знойдзенымі на тэр. Беларусі, з'яўляюцца крамянёвыя вострі каначнік, адшчэпы з рэтушшу, скрэблападобныя прылады мусцьерскага тыпу (100—40 тыс. г. таму назад), знойдзеныя каля в. Падлужжа Чачэрскага, Абідавічы Быхаўскага, Свяцілавічы Веткаўскага і Клеявічы Касцюковіцкага р-наў. Але датаванне гэтых прылад працы не пацверджана біястратыграфічнымі метадамі. Упэўнена можна сцвярджаць пра з'яўленне чалавека на Пд тэр. Беларусі ў верхнім палеаліце (40—10 тыс. г. таму назад) напярэдадні максімуму апошняга зледзянення, пра што сведчаць стаянкі *Бердыж* і *Юравічы.*

*Літ.:* 480, 919. *А. Г. Калечыц.*

**ЗАТО́НЫ 1-я,** гарадзішча-сховішча 3-й чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. каля в. Затоны 1-я Горацкага р-на. За 1 км на З ад вёскі, на левым беразе р. Проня, на мысе, утвораным 2 ручаямі, выш. над поймай 5 м. Пляцоўка авальнай формы, памеры 21×18 м, парасла дрэвамі і хмызняком. Па перыметры ўмацавана кальцавым валам выш. да 4,5 м, шыр. да 12—15 м. З боку поля ўмацавана дадатковым падкováпадобным валам выш. 3 м, шыр. 10 м. Паміж кальцавым і дадатковымі валамі захаваліся равы шыр. да

10 м. Выявіў і абследаваў у 1985—86 А. А. Седзін. Культурны пласт таўшч. 0,35 м. Знойдзены адшчэпы з крэменю, у мацерыку 2 ямы глыб. 0,4 і 0,5 м.

*Літ.:* 1050. *А. А. Седзін.*

**ЗАХА́РНІЧЫ,** курганны могільнік полацкіх крывічоў каля в. Захарнічы Полацкага р-на. За 2 км на ПнУ ад вёскі, у лесе. 14 курганоў выш. 1—1,5 м (адзін з іх — 3 м), дыям. 6—8 м. Выявіў і даследаваў 5 курганоў у 1969 Г. В. Штыхаў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне: на грунце палілі рытуальны (ачышчальны) агонь, потым пасярэдзіне вогнішча выкопвалі яму глыб. 0,3—0,5 м, у якую апускалі труну з нябожчыкам галавой на З. Над пахаваннем насыпалі курган.

Знойдзены бронзавыя спражкі, паясныя кольцы, сярэбраныя пярсцёнкі, жал. нож, падкованападобная фібула, шмат шкляных пацерак. Паводле даследаванняў касцей з дзіцячых і дарослых пахаванняў Л. М. Казей устанавіла, што дзеці хварэлі цяжкай формай рахіту, адзначаны анамаліі ў развіцці зубоў, інш. захворванні.

Датуецца 11 ст.

*Літ.:* 476, 1332. *Г. В. Штыхаў.*

**ЗАХОДНЕЕЎРАПЕ́ЙСКІЯ ЗНАХО́ДКІ,** археал. знаходкі, якія трапілі на тэр. Беларусі з зах.-еўрап. краін. Знойдзены: на гарадзішчы Збароў у Рагачоўскім р-не абломак саксонскага бронзавага кубка з выявай жанчыны і лацінскім надпісам; у Навагрудку бронзавы кубак (Памор'е, Самбія, 12 ст.) і залаты пярсцёнак з лацінскім надпісам (13—14 ст.); у Гродне сярод стараж. рэчаў Каложскай царквы бронзавы вадалей у выглядзе коннага рыцара (Паўн. Германія, Ніжняя Саксонія, 1-я пал. 13 ст.); у Ваўкавыску наверша з косці маржа ў выглядзе галавы льва, які глытае чалавека (Паўд. Германія, 2-я пал. 12 ст.); у Мінску абломак касцяной лыжачкі для прычасця ў выглядзе фігуркі святога з рогам (Францыя, 12 ст.).

*Літ.:* 296. *Л. У. Дучыц.*

**ЗАЦЭ́ННЕ,** стаянка эпох неаліту і бронзы каля в. Зацэнне Лагойскага р-на. За 2 км на З ад в. Зацэнне, за 1 км на ПдУ ад в. Ліпкі, каля моста цераз р. Цна, па шашы Плешчаніцы — Барысаў, паабапал канала, якім выпрастана рэчышча Цны. У старажытнасці паселішча размяшчалася на невял. выступе карэннага берага возера каля вытоку з яго ракі, цяпер гэта асушаны тарфянік. Даўж. з Пн на Пд 120 м, шыр. 50 м. Выявіў у 1966 г. С. Шубара, даследаваў у 1966, 1967, 1988 М. М. Чарняўскі, ускрыта 80 м².

У зах. прырэчнай частцы стаянкі пад пластом торфу больш як метровай таўшчыні выяўлены праслойкі пяску, торфу і раслінных рэштка́ў. Непасрэдна над мацерыкам з буйназярністага азёрнага пяску выяўлены знаходкі раннеалітычнага часу, блізкія да нарвенскай і нёманскай культур на іх пачатковых этапах: крамянёвыя вастры са скошаным канцом, мікраліты-ўкладышы, разнастайныя скрабкі і нажы, касцяныя лістападобныя і біканічныя наканечнікі стрэл, разцы, праколкі, кінжалы, шматзубы гарпун, матыкі з прасвідраванымі адтулінамі. Некаторыя касцяныя знаходкі арнаментаваныя. Знойдзены фрагменты вастрадонных гаршкоў з дамешкамі ў гліну раслінных рэшткаў і тоўчаных ракавін, арнаментаваныя расчосамі грэбеня. Посуд у верхняй частцы аздоблены грабеньчатымі адбіткамі, насечкамі, наколамі, у большасці меў пад краем венчыка шэраг глыбокіх ямак. Пры прракладцы канала выяўлены абломак чоўна-даўбёнкі сярэдзіны 4-га тысячагоддзя да н. э. У больш высокіх пясчаных адкладах нешматлікія знаходкі познанеалітычнага часу. У верхнім пласце адкладаў, ва ўсх. частцы паселішча знойдзена кераміка сосніцкай культуры. Паўднёва-ўсх. край помніка займаюць рэшткі селішча 17—18 ст.

*Літ.:* 317, 1289. *М. М. Чарняўскі.*

**ЗАЧЭ́ПІЦКІ МАНЕ́ТНЫ СКАРБ.** Знойдзены ў в. Зачэпічы Дзятлаўскага р-на ў 1956. Адзін з найб. буйных манетных скарбаў 17 ст. на Беларусі. У гліняным гаршку знаходзілася каля 5000 білонных і сярэбраных манет, з якіх захавалася 2529 агульнай вагой 2600 г.

Вял. кн. Літоўскае: паўгрош літоўскі 1561 Жыгімонта II Аўгуста — *Віленскі манетны двор;* паўгрош польскі паміж 1492 і 1499 Яна Ольбрахта; паўгрош польскі (2 экз.) 1509 і са сцёртай датай Жыгімонта I Старога — Кракаўскі манетны двор; Рэч Паспалітая: шэлег 1583 — Віленскі манетны двор; дэнарый двайны 1579 С. Баторыя — Мітаўскі манетны двор; дэнарый двайны (127 экз.) 1611, 1613, 1620, 1621, 162...; шэлег (1009 экз.) 1614—19, 161..., 1622—27, 162..., недатаваны, са сцёртай датай; грош літоўскі (136 экз.) 1607—09, 1611, 1615, 1625—27, 162... — Віленскі манетны двор; тэрнарый (2 экз.) 1626, 1627, шэлег (2 экз.) 1596 — Пазнанскі манетны двор; тэрнарый (7 экз.) 1624, 162..., са сцёртай датай — Лобжаніцкі манетны двор; шэлег (21 экз.) 1596, 1613, 1614, 1623—26; грош польскі (7 экз.) 1613, 1623, 1624; паўтарак (238 экз.) 1614—27 — Быдгашчанскі манетны двор; грош польскі (5 экз.) 1608, 1610 — Кракаўскі манетны двор; шэлег 1596 — Мальбаркскі манетны двор; шэлег 1588 — Олькушскі манетны двор; шылінг (766 экз.) 1588—90, 1593—1621; драйпёлькер 1616 — Рыжскі манетны двор (адзнакі манетных двароў гл. ў арт. *Манетныя двары Рэчы Паспалітай);* Барбі: драйпёлькер (3 экз.) 1611, 1612 Альбрэхта Фрыдрыха; Вільд-Рэйнграфен ф. Сальм: крэйцар трайны недатаваны Іаана Адольфа [1585—1625] — Грумбахскі манетны двор; Ліпэ: драйпёлькер 1612 Сімона VI; Магдэбург: драйпёлькер 1616 (гар. чаканка); Мансфельд—Борнштадт: драйпёлькер 1611, 1614 Бруна II, Вільгельма, Ганса Георга, Вольрата і Обста; Мюнстэрберг — элькрэйцар трайны 1616 Карла II; Падэрборн: драйпёлькер 1613 Тэадора; Памеранія — Вальгаст: драйпёлькер 161... Філіпа Юлія [1592—1625]; Памеранія — Камін: драйпёлькер 1617 Францыска I; Памеранія — Штэцын: драйпёлькер 1620 Багуслава XIV; Пфальц — Хайдэльберг: паўбатцэн 1582 Іаана Казіміра; Рытберг: драйпёлькер 1616 Іаана III; Свідніца: паўгрош свідніцкі 1521 Людовіка II Ягелончыка; Фрыдберг: паўбатцэн 1592 Іаана Эберхарда; Хальберштадт: драйпёлькер 1617 Хрысціяна Браўншвейгскага; Хамельн: драйпёлькер 1614, 1616 (гар. чаканка); Хільдэсхайм: драйпёлькер 1609 Эрнста; Хольштэйн — Готарп: драйпёлькер 1600 Іаана Адольфа; Шаумбург: драйпёлькер 1601 Эрнста; Юліх — Клеве — Берг: драйпёлькер (2 экз.) 1600, 1606 Іаана Вільгельма; Ягерндорф: крэйцар трайны 1616 Іаана Георга; Брандэнбург: драйпёлькер (3 экз.) 1613, 1614 Іаана Сігізмунда, драйпёлькер 1623 Георга Вільгельма — Кёльнскі манетны двор; Прусія: шылінг 1531 Альберта II, шылінг (14 экз.) 1625—27, драйпёлькер (15 экз.) 1625, 1626 Георга Вільгельма — Кёнігсбергскі манетны двор; Венгрыя: дэнарый (3 экз.) 1551, 1552 Фердынанда I, дэнарый 1579, 1588, 159... Рудольфа II — Крэмніцкі манетны двор; Шведская Прыбалтыка: шылінг (126 экз.) 1621, 1623—27, са сцёртай датай Густава II Адольфа, драйпёлькер (2 экз.) 1623, 1624 — Рыжскі манетны двор; Расія: капейка Фёдара Іванавіча [1584—98] — Наўгародскі дзенежны двор; капейкі (4 экз.) Барыса Фёдаравіча [1598—1605] — Маскоўскі, Наўгародскі, Пскоўскі дзенежныя двары (адзнакі дзенежных двароў гл. ў арт. *Дзенежны двор*). Ухаваны ў 1627—28. Зберагаецца ў Гродзенскім гісторыка-археалагічным музеі.

*Літ.:* 1722. *В. Н. Рабцэвіч.*

**ЗАШЧЫРЫНА,** курганны могільнік крывічоў 1-й пал. 11 ст. каля в. Защырына Верхнядзвінскага р-на. За 200 м на У ад вёскі, побач з могілкамі. 46 насыпаў круглай і чатырохвугольна-круглаватай формы, выш. 0,3—1,5 м, дыям. 5—10 м. Каля асновы насыпаў прасочваюцца кальцавыя і авальныя раўкі. Адкрыў у 1955 Л. В. Аляксееў, даследавала 6 насыпаў у 1975 З. М. Сяргеева. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце галавой на З і ПдЗ.

Знойдзены нож, крэсіва, бронзавыя спіральныя і пласціністыя пярсцёнкі, шкляныя пацеркі, бронзавыя вітыя бранзалеты з завязанымі канцамі, фрагменты ляпнога і ганчарнага посуду. Наяўнасць балцкіх элементаў сведчыць аб прысутнасці стараж. балцкага насельніцтва. *Л. У. Дучыц.*

**ЗАЯМНАЕ,** стаянка каля в. Заямнае Стаўбцоўскага р-на. За 1,5 км на ПнЗ ад вёскі, на дзюне ўсх. правабярэжнай старыцы Нёмана. Даўж. дзюны з ПнЗ на ПдУ 350 м, паўд. яе частка моцна развеяна. Выявіў у 1977 А. М. Гутоўскі, абследаваў у 1981 М. М. Чарняўскі. Культурны пласт да 0,6 м.

У ім і на агаленні сабрана вял. коль-

касць крамянёвых вырабаў — лістападобныя і трохвугольныя наканечнікі стрэл, ланцэтападобныя вастрыі, геам. мікраліты, сякеры і інш. У невял. колькасці знойдзена кераміка з расліннымі дамешкамі, абломкі абпаленага посуду з адбіткамі шнура і лінейнага штампа.

Дзюна была заселена працяглы час — ад мезаліту і да бронзавага веку.

*М. М. Чарняўскі.*

**ЗА́ЯЦ** Юрый Апанасавіч (н. 12.1. 1951, Ліда), беларускі археолаг. Канд. гіст. навук (1989). Скончыў Мінскі педагагічны ін-т (1977). У 1977 супрацоўнік Дзяржаўнага музея Беларускай ССР, з 1978 — сектара стараж. бел. культуры Ін-та мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. З 1979 працуе ў Ін-це гісторыі АН Беларусі. Даследуе праблемы археалогіі Цэнтр. Беларусі перыяду феадалізму. Даследаваў археал. помнікі на тэр. Мінска і Заслаўя, Асіповіцкага, Барысаўскага, Дзяржынскага і Мінскага р-наў.

*Тв.:* Заслаўль X—XVIII веков: (Ист.-археол. очерк). Мн., 1987; Мінская брама XII ст. // Помнікі мастацкай культуры Беларусі: Новыя дослед.: Зб. арт. Мн. 1989: Заслаўская кафля Мн., 1990.

**ЗБАН**, ганчарны выраб; высокая, пераважна паліваная гліняная пасудзіна для вады, квасу, малака. Меў пукатыя бакі, цыліндрычнае горла, літок і ручку. На Беларусі пашыраны з 16 ст. Знойдзеныя пры раскопках Быхава, Крычава, Магілёва, Мсціслава З. 16—17 ст. упрыгожаны адбіткамі пальцаў па перыметры ручак або налепамі ў выглядзе кветак па плечуках, з кручанымі ручкамі.

У зах. раёнах Беларусі плечукі З. упрыгожвалі карбоўкай і адбіткамі грэбеня. З 17 ст. разам з паліванымі існавалі З., размаляваныя ангобам (раслінны і геам. арнамент) пад паліву.

*Н. І. Здановіч.*

**ЗБА́РАВІЧЫ**, гарадзішча *штрыхаванай керамікі культуры* каля в. Збаравічы Мінскага р-на. За 500 м на ПнУ ад вёскі, на ўзгорку, на левым беразе р. Гуйка. Пляцоўка авальная, памеры 65×33 м, была ўмацавана драўлянай сцяной, пазней па краі пляцоўкі валам выш. 0,3—0,4 м. Адкрыў у 1912 А. К. Снітка, даследаваў 868 м² у 1951, 1952, 1958 А. Р. Мітрафанаў. Культурны пласт у цэнтры пляцоўкі 0,3 м, уздоўж паўн.-зах. краю 0,8—0,9 м, каля паўд.-ўсх.— 0,6—0,7 м.

Выяўлены рэшткі 2 шматкамерных жытлаў слупавой канструкцыі, падзеленых на 5 памяшканняў па 20—25 м² кожнае. Пакрыццё, верагодна, было аднасхільнае; адзін канец крокваў апіраўся на слупы, другі ўмацоўваўся ў насыпе землянога вала. У 4 памяшканнях выяўлены авальныя (0,9×1,3 м) і круглыя (дыям. 0,7—0,8 м) агнішчы з пласта пяску, абкладзенага валікам гліны з умазанымі камянямі. У паўд.-ўсх. частцы пляцоўкі выяўлена гасп. пабудова з 4 памяшканняў па 14—17 м² кожнае. На пляцоўцы і ўнутры жытлаў было больш як 20 ям-паграбоў авальнай (памеры 1,2—2,3×0,6—2 м, глыб. 0,3—1,1 м) і круглай (дыям. 1—1,2) формы. Знойдзены абвугленае зерне пшаніцы, фрагменты рабрыстых гаршкоў і слоікападобных пасудзін, упрыгожаных зашчыпамі па рабры і наразнымі лініямі паміж верхнім краем і рабром пасудзін, акулярападобная і трапецападобная падвескі, кіяпадобная шпілька, бронзавыя ўпрыгожанні, гліняныя прасліцы, грузікі дзякоўскага тыпу, жал. сярпы, шылы.

Датуецца 1—4 ст. н. э.

*Літ.:* 785, 847. *А. Р. Мітрафанаў.*

**ЗБАРО́Ў**, археал. помнікі каля в. Збароў Рагачоўскага р-на.

Гарадзішча. За 1 км ад вёскі, на левым карэнным беразе Дняпра.



Ю. А. Заяц.



Паліваныя **збаны** 17 — пач. 20 ст. з Мсціслава.

Пляцоўка ўзвышаецца над узроўнем вады на 17—18 м. З зах., паўд.-зах. і часткова з паўд. бакоў умацавана валам (выш. каля 4 м, шыр. каля 15 м) і ровам (глыб. 2,5—3 м, шыр. каля 15 м). Вядома з 1873. Абследавалі ў 1931 А. М. Ляўданскі, у 1976 А. Р. Мітрафанаў, даследавала 473 м² у 1967—68 Г. Ф. Салаўёва. Культурны пласт каля вала 1,6 м, у цэнтры пляцоўкі 0,5—0,6 м. Выяўлены рэшткі паўзямлянкавага жытла *мілаградскай культуры* (заглыблена ў зямлю на 0,5 м, памер 3,4×1,3 м), якое мела ўваход у выглядзе карытападобнай западзіны (памеры 1,8× ×1×0,4 м) і 3 гасп. ямы круглай формы (дыям. 0,6—1,7 м, глыб. 0,25 м).

Знойдзены фрагменты кругладонных пасудзін і гліняныя грузікі. У культурным гарызонце эпохі Кіеўскай Русі выяўлены рэшткі ніжняга вянка наземнага жытла (памер 3,25×2,68 м) з глінабітнай печчу, сляды сцен двухкамернай пабудовы (даўж. 3,4×5,1 м) і 2 гасп. ямы (карытападобнай формы памерам 2,26×1,46×0,4 м і круглай дыям. 1,1 м, глыб. 1,4 м). Знойдзены фрагменты ганчарных пасудзін з лінейным і хвалістым арнаментам, ліцейная форма, кавалкі бронзавых і шкляных бранзалетаў, абломак бронзавай зах.-еўрап. чашы з выгравіраванай выявай жанчыны і надпісам на лац. мове, шыферныя прасліцы, бронзавы энкалпіён, фрагменты шкляной пасудзіны. На думку Салаўёвай, у 12 ст. гарадзішча было рэзідэнцыяй рагачоўскіх князёў.

Курганны могільнік. За 2,5 км на У ад вёскі, у лесе, на левым беразе Дняпра. 5 курганоў выш. 1,1—2,5 м, дыям. 5—11 м. Адкрыў і абследаваў у 1976 Мітрафанаў.

*Літ.:* 718, 1111а, 1117.

*А. Р. Мітрафанаў.*

**ЗБАРО́ЎСКІЯ КАРА́ЛІ**. Знойдзены ў 1968 у час земляных работ каля в. Збароў Рагачоўскага р-на. Зберагаліся ў мясц. школе, цяпер у музеі гісторыі БДУ.

Складаюцца з 14 пацерак (4 шматгранныя пляскатыя з кварцу, 2 шарападобныя і 7 біпірамідальных сердалікавых, 1 сярэбраная зярнёная дрыгавіцкая), 6 сярэбраных брактэатных падвесак [2 з сямі-, 3 з васьміпялёсткавай разеткай у цэнтры і кропкавым арнаментам па краі, 1 са складаным раслінным арнаментам (дыям. 4 см), вушкі для падвешвання зроблены з меднай палоскі, прымацаванай да падвесак меднымі цвікамі], саманідскага дырхема-падвескі Нух Ібн Насра [943—954], якi захаваўся дрэнна (дату і месца чаканкі нельга вызначыць). Пацеркі і падвескі, падобныя да збароўскіх, трапляліся ў раскопках старaж.-рус. курганоў. Датуюцца 11 ст.

*Літ.:* 1571. *А. М. Плавінскі.*

**ЗБІРА́ЛЬНІЦТВА**, адна з форм гасп. дзейнасці чалавека на ранніх стадыях яго грамадскага развіцця, якая заключалася ў збіранні гатовых дароў прыроды — траў, караняплодаў, ягад, арэхаў, пладоў дзікарослых дрэў, грыбоў, мёду дзікіх пчол і інш. Сярод археал. знаходак, якія сведчаць пра існаванне З. ў каменным веку,— прымітыўныя прылады працы: рагавыя і касцяныя землекапалкі і матыкі, пліткі і мялы для расцірання зерня, а таксама адбіткі зярнят і сцёблаў дзікіх злакаў на сценках глінянага посуду. З. суіснавала з *паляваннем* і *рыбалоўствам*, займала важнае месца ў спа-

жывецкай гаспадарцы і падрыхтавала ўмовы для вытворчай гаспадаркі. З пераходам да земляробства і жывёлагадоўлі набыло характар дапаможнага промыслу. У сувязі з падзелам працы паміж жанчынамі і мужчынамі З. стала выключна жаночым заняткам. Сучасныя ўяўленні пра склад раслін, якія збіралі, пра тэхналогію гэтага віду гаспадаркі базіруюцца на назіраннях за жыццём плямён, што захавалі паляўнічазбіральніцкі ўклад (Аўстралія, Афрыка, Тасманія і інш.). З. захоўвае сваё значэнне на розных узроўнях развіцця культуры, у т. л. і ў эпохі цывілізацый, як промысел, з'яўляючыся істотнай дабаўкай да асн. с.-г. відаў расліннай і жывёльнай ежы.

*Літ.:* 3, 847, *Н. П. Александровіч.*

**ЗБЛЯНЫ**, стаянка каля в. Збляны Лідскага р-на. Выявіў у 1962 Ф. Ф. Барташэвіч.

С т а я н к а-1. За 500 м на ПнУ ад вёскі, на краі васьміметровай правабярэжнай тэрасы Нёмана. Дауж. 800 м, шыр. 70—80 м. Культурны пласт 0,2—0,3 м захаваўся часткова. Знойдзены лістападобныя наканечнікі стрэл, разнастайныя скрабкі і разцы, рэжучыя і сякучыя прылады, нуклеусы, у т. л. двухпляцовачныя прызматычныя. Частка знаходак адносіцца да свідэрскай культуры, датуецца канцом палеаліту і мезаліту (10—7-е тысячагоддзі да н. э.).

С т а я н к а-2. За 600 м на ПнУ ад вёскі, за 100 м ад стаянкі-1, на месцы б. хутара Хмялінскага. Дауж. 500 м, шыр. да 70 м. Знаходкі са стаянкі блізкія да матэрыялаў стаянкі-1. *М. М. Чарняўскі.*

**«ЗБОР АРХЕАЛАГІЧНЫХ КРЫНІЦ»** («Свод археологических источников»), серыйнае выданне Ін-та археалогіі АН СССР, якое выпускаецца з 1961 у Маскве на рус. мове. Мае на мэце сістэматызацыю, класіфікацыю і характарыстыку асобных катэгорый рэчавага комплексу, помнікаў і археал. культур у цэлым ад палеаліту да позняга сярэднявечча. У шэрагу прац серыі ёсць звесткі пра знаходкі ці помнікі, звязаныя з тэр. Беларусі.

Сярод іх даследаванні А. Я. Брусава, М. П. Зіміной («Каменныя свідраваныя баявыя сякеры на тэрыторыі Еўрапейскай часткі СССР», 1966), А. К. Амброза («Фібулы поўдня Еўрапейскай часткі СССР II ст. да н. э.— IV ст. н. э.», 1966), А. М. Кірпічнікава («Старажытнаруская зброя», 1966, 1971), В. В. Сядова («Доўгія курганы крывічоў», 1974), І. П. Русанавай («Славянскія старажытнасці VI—IX стст. паміж Дняпром і Заходнім Бугам», 1973), П. А. Рапапорта («Старажытнарускае жыллё», 1975) і інш. У манаграфіях Ю. У. Кухарэнкі, прысвечаных археал. помнікам Палесся («Помнікі жалезнага веку на тэрыторыі Палесся», 1961; «Сярэднявечныя помнікі Палесся», 1961; «Першабытныя помнікі Палесся», 1962; «Зарубінецкая культура», 1964), значная частка матэрыялаў мае беларускае паходжанне. *А. А. Егарэйчанка.*



Збароўскія каралі.

**«ЗБОР ПОМНІКАЎ ГІСТОРЫІ І КУЛЬТУРЫ БЕЛАРУСІ».** Выдадзены ў 1984—88 у Мінску на бел. мове ў 7 тамах (8 кнігах). Аб'ём выдання 457,5 ул.-выд. аркушаў. Уключае 14 322 артыкулы. Змешчана 6817 іл., з іх 1420 каляровых, 131 карта. Падрыхтаваны Сектарам збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі Ін-та мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору, Аддзелам археалогіі Ін-та гісторыі АН Беларусі і выдавецтвам «Беларуская Энцыклапедыя» імя П. Броўкі. Збор планаваўся як частка агульнасаюзнага выдання «Збор помнікаў гісторыі і культуры народаў СССР». Выданне ўключае нерухомыя існуючыя помнікі, што ўзяты ці павінны быць узяты пад ахову дзяржавы. Кожнай вобласці рэспублікі і г. Мінску прысвечаны асобны том (Мінская вобласць у 2 кнігах). Збор уключае помнікі гісторыі, археалогіі, архітэктуры, манументальнага і манументальна-дэкаратыўнага мастацтва пэўнага рэгіёна. Кожнаму помніку прысвечаны артыкул, у якім дадзена характарыстыка яго гістарычных і мастацкіх каштоўнасцей. Сістэматызацыя помнікаў у кожным томе праведзена паводле тэрытарыяльнага прынцыпу — матэрыялы размешчаны па раёнах (у алфавітным парадку іх назваў). Унутры раёна першымі разглядаюцца матэрыялы пра адміністрацыйны цэнтр, а потым пра помнікі іншых населеных пунктаў (у алфавітным парадку). Артыкулы пра помнікі аднаго населенага пункта падаюцца ў алфавітным парадку назваў помнікаў. Помнікі археалогіі — рэшткі стараж. пасяленняў — стаянкі, паселішчы, гарадзішчы, селішчы і гарады, стараж. помнікі працоўнай дзейнасці чалавека, могільнікі, надмагільныя і рытуальныя збудаванні. У артыкуле пра помнік археалогіі ўказана яго месцазнаходжанне, памеры, час выяўлення і раскопак, даследчыкі, пералічаны знаходкі, вызначаны, калі магчыма, этнічная прыналежнасць і датаванне помніка, даецца бібліяграфія. У канцы кожнага тома пададзены імянны, геаграфічны і храналагічны паказальнікі. Выданне — найбольш поўны і сістэматызаваны даведнік культурнай і гістарычнай спадчыны Беларусі. Дзярж. прэмія Беларусі 1990.

*У. Дз. Будзько, С. П. Самуэль.*

**ЗБОРСК**, археал. помнікі каля в. Зборск Асіповіцкага р-на.

Г а р а д з і ш ч а-1. У вёсцы, на стрэлцы мыса, утворанага левым берагам р. Свіслач і безназоўным ручаём. Курганападобны вал выш. 2 м, дыям. каля 15 м дзеліць пляцоўку на 2 часткі. Вял. пляцоўка амаль круглая, дыям. 58—60 м, малая дауж. 27 м, шыр. 18—20 м. З усх. і паўд.-зах. бакоў захаваліся валы выш. 1,8—2 м, шыр. 16—18 м. Абследавалі ў 1925 А. Немцаў, у 1965 Л. Д. Побаль у 1978 А. Р. Мітрафа-

ваў. Культурны пласт 0,4—0,5 м. Знойдзена ляпная кераміка *мілаградскай культуры, зарубінецкай культуры* і *штрыхаванай керамікі культуры.* У верхнім гарызонце выяўлена ганчарная кераміка эпохі Кіеўскай Русі. У цэнтры вял. пляцоўкі выяўлены рэшткі фундамента драўлянай царквы.

Гарадзішча-2. За 2 км на Пд ад вёскі, на левым беразе р. Свіслач, ва ўрочышчы Ранняя Рэчка. Пляцоўка авальная, памер 145—150×120 м. Валы выш. да 1 м і равы захаваліся часткова. Абследавалі ў 1925 Немцаў, у 1955 Побаль, у 1978 Мітрафанаў. Культурны пласт 0,3—0,4 м, прасочаны на ўсёй пляцоўцы. Знойдзена ляпная кераміка ранняга жал. веку, аналагічная кераміцы гарадзішча-1, фрагменты ганчарнага посуду эпохі Кіеўскай Русі.

Курганны могільнік-1. За 900 м на ПнЗ ад вёскі, 6 насыпаў дыям. 6—11 м, выш. 0,5—2,5 м. Абследавалі ў 1925 Немцаў, у 1978 Мітрафанаў. Раскопкі не праводзіліся.

Курганны могільнік-2. За 200 м на ПдУ ад вёскі. 6 насыпаў дыям. 5—8 м, выш. 0,5—1,3 м. Абследавалі ў 1925 Немцаў, у 1926 С. С. Шутаў і М. М. Улашчык, у 1978 Мітрафанаў. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* 820, 1369. *А. Р. Мітрафанаў.*

**ЗБО́ЧНА**, гарадзішча каля в. Збочна Слонімскага р-на. На беразе р. Окаўкі, ва ўрочышчы Гарадзішча. Амаль з усіх бакоў абкружана забалочанай поймай ракі. Пляцоўка мае круглаватую форму, умацавана 2 лініямі валоў. Вонкавы вал выш. 2,5—3 м (з Пн частка вала адсутнічае). Унутраны вал на адлегласці 10—25 м ад знешняга, насыпаны на краі круглай пляцоўкі дыям. 60 м. У вонкавым і ўнутраным валах ёсць уезд з ПдЗ, ва ўнутраным — і з ПдУ. Адкрыў у 1893 Я. М. Міхайлоўскі. Шматразова даследавалася. Культурны пласт таўшч. 0,4—0,7 м. Знойдзены фрагменты ганчарнай керамікі 12—13 ст., металічныя вырабы, рэшткі цэглы, косці жывёл. П. А. Рапапорт знайшоў пячатку канца 16 ст. Пляцоўка гарадзішча разбураецца гасп. ямамі.

*Літ.:* 272, 791. *С. А. Піваварчык.*

**ЗВА́РКА**, спосаб нераздымнага злучэння цвёрдых металічных цел. У старажытнасці і сярэднявеччы пры апрацоўцы жалеза З. ажыццяўлялася шляхам награвання ў горне і пластычнай дэфармацыі загатовак пад молатам (кавальская або горнавая З.). На тэр. Беларусі майстры мілаградскай, зарубінецкай і інш. культур выкарыстоўвалі З. пры вырабе наканечнікаў коп'яў і сякеркельтаў, для злучэння кавалкаў жалеза ў розныя загатоўкі пры вырабе прылад працы і зброі. Кавалі 6—8 ст. карысталіся З. пры пакетаванні сыравіны для атрымання якасных загатовак інструментаў. У эпоху Кіеўскай Русі З. выкарыстоўвалі для злучэння жалеза і сталі (трохпалоснае пакетаванне, наварка стальной рабочай часткі на жал. аснову ляза), у вытворчасці нажоў, сякер, сярпоў і інш. прылад працы. Выкарыстанне спецыяльных флюсаў пры З. дазваляла атрымліваць зварныя швы, устойлівыя да карозіі.

*Літ.:* 277, 558. *М. Ф. Гурын.*

**ЗВЯЗДА́**, археал. помнікі каля в. Звязда Лепельскага р-на.

Гарадзішча *штрыхаванай керамікі культуры.* За 1,5 км на ПнУ ад вёскі, у лесе, ва ўрочышчы Піўніца, на мысе выш. да 3 м, сярод забалочанай поймы азёр Тэкліц і Луконец. Вядома пад назвай Аўгустова. Пляцоўка амаль круглая, памер 35×30 м, зрытая акопамі. Вядома з канца 19 ст. Адносіцца да пасялішчаў пераходнага перыяду — ад неўмацаваных паселішчаў да ўмацаваных гарадзішчаў. Абследаваў у 1931 А. М. Ляўданскі, у 1953 раскапаў 24 м² А. Р. Мітрафанаў, абследаваў у 1981 Ю. А. Заяц. Культурны пласт да 1 м.

Знойдзены абломкі штрыхаванай керамікі (аналагічнай *днепра-дзвінскай культуры),* жал. сякера, дроцік з шыпамі (па форме аналагічны дроцікам познаскіфскага часу), серп, рыбалоўныя кручкі, шлак, гліняныя прасліцы, касцяная праколка, косці свойскіх і дзікіх жывёл.

Датуецца 4—1 ст. да н. э.

Курганны могільнік-1. На паўд.-зах. ускраіне вёскі, на беразе воз. Тэкліц. Паўд.-ўсх. частка могільніка занята гасп. пабудовамі, часткова або поўнасцю разбураны каля 10 насыпаў. Пл. астатняй часткі могільніка 0,5—0,6 га. Захавалася не менш як 100 курганоў дыям. 5—13 м, выш. 0,5—3 м, некаторыя падоўжаныя. Абследаваў у 1931 Ляўданскі, у 1972 Мітрафанаў, у 1982 Заяц. Раскопкі не праводзіліся.

Курганны могільнік-2. За 700 м на Пн ад вёскі, каля дарогі, што вядзе да ўрочышча Піўніца і гарадзішча Аўгустова. 4 падоўжаныя насыпы памерам ад 10×6 да 12×6,5 м. Выявіў і абследаваў у 1981 Заяц. Раскопкі не праводзіліся.

Курган. За 500 м на Пн ад вёскі, каля дарогі, што вядзе да ўрочышча Піўніца. Насып падоўжанай формы памерам 10,5×6,5 м, выш. 1,4 м. Захаванасць добрая. Выявіў і абследаваў у 1981 Заяц.

*Літ.:* 34, 718, 782, 1046. *В. І. Шадыра.*



**Я. Г. Звяруга.**

**ЗВЯРУ́ГА** Яраслаў Генрыхавіч (н. 4.9.1928, г. п. Мядзел Мядзельскага р-на), беларускі археолаг. Канд. гіст. навук (1972). Скончыў БДУ (1953). З 1966 у Ін-це гісторыі АН Беларусі. Даследаваў стараж. гарады Ваўкавыск, Гродна, Здзітаў (Бярозаўскі р-н), Ліду, Слонім, Турыйск (Шчучынскі р-н), гарадзішчы і паселішчы Гальшаны, Гарані, Гарадок, Засвір, Мікольцы, Свір, Хведзевічы, курганныя могільнікі Вайшкуны, Засвір, Калпакі, Камена, Кастыні, Касаўшчына. Пры раскопках Ваўкавыска (1965—71) даследаваў абарончыя збудаванні, наземныя і паўзямлянкавыя жытлы 11—13 ст., рэшткі храма 12 ст., даказаў існаванне горада на 250 гадоў раней за яго першае ўпамінанне ў пісьмовых крыніцах. На раскопках у Слоніме і Гродне выявіў жылыя і гасп. пабудовы гараджан. Адзін з аўтараў «Нарысаў па археалогіі Беларусі» (ч. 2, 1972).

*Тв.:* Археологические работы в Слониме // Беларускія старажытнасці. Мн., 1972; Древний Волковыск X—XIV вв. Мн., 1975; Славяно-балтские связи в раннем средневековье (по материалам Белоруссии) // Проблемы этногенеза и этнической истории балтов. Вильнюс, 1985; Памятники Верхнего Понеманья // Белорусская археология. Мн., 1987; Верхнее Понеманье в IX—XIII вв. Мн., 1989.

**ЗВЯ́РЫНЫ СТЫЛЬ,** умоўная назва шырока распаўсюджаных у стараж. мастацтве стылізаваных выяў асобных жывёл, частак іх цела або кампазіцый з некалькіх жывёл. Вядомы з бронзавага, пашыраны ў жал. вяках. Найб. развіты ў скіфа-сармацкім мастацтве паўн. Прычарнамор'я. У мастацтве славян выявы звяроў адлюстроўвалі язычніцкія вераванні, магічныя ўяўленні. З пашырэннем хрысціянства на Захадзе і мусульманства на Усходзе З. с. страчваў сваё значэнне, але працягваў існаваць у прыкладным мастацтве сярэдневякоўя. Вядомы *вадалеі, змеевікі,* ювелірныя вырабы (бранзалеты, пярсцёнкі), застаўкі рукапісных кніг, касцяныя і каменныя вырабы з выявамі розных звяроў, птушак, фантастычных істот. На

археал. раскопках знойдзены касцяныя пласціны з выявамі дракона (Ваўкавыск, Полацк), вырабы з выявамі фантастычных істот і птушак (Лукомль, Мсціслаў, Тураў), колты з выявамі пар фантастычных птушак — сімвал сямейнага шчасця (*Вішчын*, Мінск).

*Літ.*: 848. *Г. В. Штыхаў.*

**ЗДЗІ́ТАЎ,** стараж. горад. Упершыню ўпамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1252. Пытанне пра месцазнаходжанне летапіснага горада і цяпер застаецца нявырашаным. Найбольш верагодным з'яўляецца меркаванне, што ён першапачаткова размяшчаўся за 4 км на Пд ад сучаснай в. Здзітава Бярозаўскага р-на, каля в. Старамлыны, дзе на правым беразе р. Ясельда, каля дарогі ў Хомск захаваліся рэшткі гарадзішча 11—13 ст. Большая частка помніка знішчана кар'ерам і пашкоджана сельскім могільнікам. Гарадзішча займала ізаляваны ўзгорак пл. больш за 1 га ў нізіннай, месцамі забалочанай пойме ракі. З усх. і зах. бакоў да яго прымыкае стараж. селішча пл. каля 3 га. У 1970 гарадзішча абследаваў М. А. Ткачоў, у 1971 правёў раскопкі Я. Г. Звяруга. Культурны пласт да 1,5 м, ускрыты на пл. 220 м$^2$.

Знойдзены разнастайныя жал. наканечнікі стрэл, ключы, крэсівы, фібулы, спражкі, рыбалоўныя кручкі, фрагменты сярпоў і кос, гліняныя праслíцы, грузілы для сетак, каменныя пацеркі, тачыльныя брускі, інш. гасп. і бытавы інвентар. Кераміка ганчарная, нярэдка даволі багата арнаментаваная. Матэрыяльная культура гарадзішча блізкая да матэрыяльнай культуры гарадоў Тураўскай зямлі і Бел. Панямоння.

*Літ.*: 1192. *Я. Г. Звяруга.*

**ЗЕМЛЯРО́БСТВА** а р х а і ч н а е. Упершыню земляробствам пачалі займацца плямёны, якія ў 7—6-м тысячагоддзях да н. э. жылі паблізу ад цэнтраў паходжання продкаў культурных раслін (дзікія продкі пшаніцы вядомы ў Малой Азіі і Закаўказзі, проса — у Сярэдняй Азіі). Першыя земляробчыя культуры ўзніклі ў 7-м тысячагоддзі да н. э. ў Малой Азіі і на Блізкім Усходзе, праз 1—2 тыс. г.— у Месапатаміі, Егіпце і даліне Інда. У 6—5-м тысячагоддзях да н. э. земляробства стала пашырацца на Балканскім паўвостраве (культура каранова-старчава-крыш-кёраш), басейне Дуная (буга-днястроўская культура, культура боян), пазней — на лёсавых глебах у вярхоўях Віслы і на Валыні (*лінейна-стужкавай керамікі культура*). Акрамя пшаніцы, тут вырошчвалі ячмень, магчыма, проса, сачавіцу. У 4-м тысячагоддзі да н. э. З. займаліся плямёны *трыпольскай культуры*, якія дасягнулі паўд, раёнаў Палесся і Сярэдняга Падняпроўя. У 3-м тясячагоддзі да н. э. на тэр. зах. Беларусі ад паўд. Прыбалтыкі да вусцяў Прыпяці распаўсюдзіліся ўплывы плямён *лейкападобных кубкаў культуры*, а з ПдУ — трыпольскай і ямнай культур. На скрыжаванні гэтых уплываў адбылося першы архаічны падзел плямён лясной і лесастэпавай паласы на першабытных земляробаў-жывёлаводаў і тых, што захоўвалі традыцыйную гаспадарку прысвойвання, г. зн. займаліся рыбалоўствам, паляваннем і збіральніцтвам. Мяжа паміж імі перасягнула паўд.-зах. рэгіён тэр. Беларусі, напэўна, у пачатку і сярэдзіне 4-га тысячагоддзя да н. э., а крыху пазней землі на ПдУ,



Да арт. **Земляробства.** Матыкі канца 3-га — 1-й пал. 2-га тысячагоддзя да н. э. з Глыбоцкага р-на, паселішчаў Гарочычы Калінкавіцкага р-на і Галоўск Бешанковіцкага р-на.

дзе жылі плямёны *днепра-данецкай культуры*, якія дзякуючы цесным кантактам з плямёнамі трыпольскай культуры Сярэдняга Падняпроўя авалодалі навыкамі З.— сеялі пшаніцу, полбу, ячмень, проса і інш. Пераход да вытворчых форм гаспадаркі спрыяў павышэнню спосабаў атрымання ежы, яна стала больш разнастайнай. Менавіта з той пары ў насельніцтва паявіўся прыбавачны прадукт, што вяло да пашырэння абмену і сувязей, забяспечыла чалавеку неабходны вольны час для авалодання новым спосабам гаспадарання. Пра заняткі З. сведчаць раслінныя дамешкі з зернем ячменю і пшаніцы ў гліну пры вырабе керамічнага посуду ў плямён днепра-данецкай і трыпольскай культур, знаходкі ў пластах гэтых культур пылку культурных раслін і пустазелля, што суправаджае іх. Знаходкі матэрыялаў прывазных земляробчых культур, абпаленых зярнят, зерняцёрак, крамянёвых матык, сярпоў, гліняных фігурак валоў (часам нават з раламі), касцей свойскіх жывёл і інш. у суседніх плямён, а таксама на тэр. Пд Беларусі (стаянка *Камень*) сведчыць, што ў 3-м тысячагоддзі да н. э. тут адбылася т. зв. *«неалітычная рэвалюцыя»*. Ускладненне арнаментацыі на кераміцы позняга неаліту адлюстроўвае ідэалагічныя ўяўленні земляроба. Земляробства пашыралася з ПдЗ на ПнУ і ўверх па Дняпры. Гэты працэс расцягнуўся на 2 тысячагоддзі. Канчаткова З. на ўсёй тэр. Беларусі ўсталявалася ў бронзавым веку, у пач. 2-га тысячагоддзя да н. э., калі з З, Пд, ПдУ на тэр. Беларусі пранікалі плямёны *шнуравой керамікі культуры*, *сярэднеднятроўскай культуры* і інш., якія ўплывалі на мясц. насельніцтва нёманскай, нарвенскай і інш. культур. Спачатку для сяўбы рыхтавалі невял. участкі зямлі пераважна ў поймах рэк. Іх апрацоўвалі каменнымі і рагавымі *матыкамі*, што трапляюцца ў выглядзе пад'ёмнага матэрыялу або пры раскопках паселішчаў і могільнікаў бронзавага веку. Па меры развіцця З. сталі паяўляцца вял. палі, якія ўтвараліся ў выніку падсечкі вял. участкаў лесу і яго спальвання. Так узнікла больш прагрэсіўнае на той час падсечна-агнявое або ляднае, З. Дрэвы высякаліся каменнымі шліфаванымі сякерамі, збожжа жалі крамянёвымі сярпамі, пераціралі на ручных каменных *зерняцёрках*. Бронзавыя сярпы пакуль невядомы. Ляднае З. з яго прымітыўнай матыкай не магло даць шмат прадуктаў. З паяўленнем жалеза (з 7—6 ст. да н. э.) З. ўзнялося на больш высокую ступень развіцця. Металічныя прылады працы значна пераўзыходзілі каменныя ў прадукцыйнасці і былі больш зручныя. Для жніва выкарыстоўвалі *сярпы* і нажы. Тагачасныя сярпы былі невялікія (даўж. ляза 8—18 см), мелі слаба выгнутую спінку, прамое лязо і дзяржанне. Такія сярпы знойдзены на гарадзішчах і селішчах *Адаменка* Быхаўскага, Буракова Гарадоцкага, *Вязынка* Маладзечанскага, *Гарадзішча* Мядзельскага, *Дзядзілавічы* Барысаўскага, *Кастрыца* Лепельскага, *Лабеншчына* (36 штук) Мінскага р-наў і інш. Скарб земляробчых прылад, сярод якіх былі 3 сярпы, знойдзены на гарадзішчы *Гарошкаў* Рэчыцкага р-на. На працягу ўсяго жал. веку пануючай формай З. была лядная сістэма, хоць у гэты час ва Усх. Еўропе, у т. л. на тэр. Беларусі, паявілася ворнае З. Пра гэта сведчаць знаходкі драўляных ралаў (крывадышальнае дубовае рала з полазам знойдзена ў тарфяніку каля в. Капланавічы Клецкага р-на). Металічныя наральнікі пашырыліся ў 2-й пал. 1-га тысячагоддзя н. э. У якасці цяглавай жывёлы пры апрацоўцы зямлі раламі выкарыстоўваліся валы або быкі,

Паводле даследаванняў на гарадзішчы і селішчы *Банцараўшчына* Мінскага р-на, у 4 ст. да н. э.— 3 ст. н. э. і ў 6—8 ст. н. э. тут вырошчвалі пшаніцу, проса, гарох, віку, конскія (палявыя) бабы. Апаленае зерне пшаніцы (канец 1-га тысячагоддзя да н. э.— пач. 1-га тысячагоддзя н. э.) знойдзена на гарадзішчы *Збаравічы* Мінскага р-на. Паводле палеабатанічных даных гэтая культура займала 1-е месца ва Усх. Еўропе ў жал. веку сярод інш. злакавых культур, 2-е месца — ячмень. Відаць, такое ж становішча з гэтымі культурамі было на той час і на ўсёй тэр. Беларусі. Збожжа на муку пераціралі пры дапамозе зерняцёрак, якія часта трапляюцца пры раскопках помнікаў жал. веку (*Звязда* Лепельскага, *Малышкі* Вілейскага, *Кімія* Барысаўскага р-наў, Вязынка, Збаравічы і інш.). Драўляныя *ралы* для апрацоўкі зямлі выкарыстоўвалі на працягу многіх стагоддзяў. У 8—9 ст. пачалі ўжываць больш дасканалыя ралы з металічным наральнікам і чарэслам, якія падразалі верхні пласт зямлі (знойдзены на селішчах каля в. *Хатомель* Столінскага і *Дворыцкая Слабада* Мінскага р-наў). Дубовае прамадышальнае рала 13 ст. знойдзена ў Брэсце (адзіная знаходка ва Усх. Еўропе), металічныя наральнікі 11—13 ст.— у Брэсце, Клецку, Мазыры, Навагрудку, Гродне, гарадзішчы *Збароў* Рагачоўскага р-на і інш. З 10—11 ст. асн. прыладай З. стала двухзубая драўляная *саха* з металічнымі сашнікамі. Сашнікі знойдзены пры раскопках у Ваўкавыску, Гродне, Лагойску, Лукомлі, Мінску, Оршы, Пінску, Чачэрску і інш. Драўляныя часткі сахі захоўваюцца ў зямлі вельмі дрэнна, таму на тэр. Усх. Еўропы зафіксаваны толькі 2 выпадкі такіх знаходак, у т. л. ў Віцебску, дзе ў 1982 выяўлена частка сахі (расоха) канца 13 ст. Паводле канструкцыйных асаблівасцей яна павінна была мець перакладную паліцу, асіметрычныя сашнікі з развітай трубіцай, злёгку выгнутай завостранай рабочай часткай і бакавымі гранямі. Акрамя вупражных ворных прылад, выкарыстоўваліся ручныя прылады для рыхлення — жал. матыкі, драўляныя рыдлёўкі з жал. акоўкамі. Самай пашыранай і амаль адзінай прыладай уборкі ўраджаю быў серп. У 10—13 ст. ён меў доўгае, часта з насечкамі лязо (25—30 см) і мала адрозніваўся ад сярпоў, якімі на Беларусі карысталіся да сярэдзіны 20 ст. Часам трапляюцца сярпы з драўлянымі дзяржаннямі (Брэст, Давыд-Гарадок). Збожжа абмалочвалі цапамі, лён і каноплі — выбівачкамі; спачатку лён апрацоўвалі ў ільнамялках, потым даводзілі да неабходнай кандыцыі пры дапамозе драўляных трапал і часал. Дэталі льнамялкі 13 ст., а таксама трапалы і часалы знойдзены ў Брэсце. Збожжа малолі на каменных жорнах з 2 камянёў: ніжняга пукатага і верхняга ўвагнутага, які прыводзіўся ў рух чалавекам. Такія жорны знойдзены ў Брэсце (13 ст.), Мінску, Навагрудку (12 ст.), іх часткі — у Ваўкавыску, Мінску, Лукомлі, Навагрудку, Брэсце, Тураве і інш. Зерне на крупы абтаўкалі таўкачамі ў ручных і нажных *ступах* (знойдзены ў Брэсце, Мінску, Полацку і інш.). У 9—13 ст. на тэр. Беларусі вырошчвалі амаль усе вядомыя ў наш час культуры. Найб. пашыраным было азімае жыта, якое спачатку паявілася як пустазелле пшаніцы, але дзякуючы сваёй марозаўстойлівасці заняло вядучае месца сярод інш. культур. У 1974 на гарадзішчы Свіла 1-я Глыбоцкага р-на ў гасп. яме з рэчамі 9 ст. знойдзена азімае жыта разам з пустазеллем, без дамешкаў інш. культур. Гэта самая ранняя знаходка жыта на тэр. Беларусі, з 11 ст. яго знаходзілі ў Мінску, *Гарадзішчы* Мінскага р-на, Лукомлі, Ваўкавыску, Тураве, Клецку і інш. Другое месца сярод земляробчых культур займала пшаніца, вядомая з 4—3 ст. да н. э. Самай ураджайнай і хуткаспелай культурай быў ячмень. Усюды вырошчвалі проса (вядома з 4—3 ст. да н. э.), палявыя бабы, гарох, лён, каноплі і інш. Вельмі рэдка сярод знаходак трапляецца авёс. Нязначная яго колькасць выяўлена ў пластах 10—11 ст. у Гарадзішчы Мінскага р-на, Гродне, Друцку, Мінску, Полацку. У 11—13 ст. авёс не атрымаў пашырэння, бо з'яўляўся на той час яшчэ новай культурай. Да 11 ст. належаць знаходкі грэчкі ў Браславе, да 12—13 ст.— у Гродне і Крычаве. Сярод агародных культур у 11—13 ст. былі пашыраны капуста, рэпа, буракі, агуркі, цыбуля. Пра развіццё садоўніцтва сведчаць знаходкі костачак слівы і вішні ў Гродне, Мінску, Полацку.



Да арт. **Земляробства.** Рала (Брэст) і расоха двухзубай сахі (Віцебск). 13 ст.



Ніжнія камяні **зерняцёрак** з гарадзішчаў Стара-Краснае (1, 3—4) і Лісікі (2) Рэчыцкага р-на.

Хуткі рост гарадоў у 11—13 ст., развіццё разнастайных рамёстваў і гандлю спрыялі з'яўленню і развіццю больш прадукцыйнай папарнай сістэмы З. ў форме двух- і трохпольля. Паралельна існавалі і інш. формы апрацоўкі зямлі: лядная, кароткачасовыя і доўгачасовыя, аднагадовыя папары. Пры кароткатэрміновым папары зямлю апрацоўвалі 3—5 гадоў, потым пакідалі на 5—10 гадоў для аднаўлення ўрадлівасці. Пры паўторным выкарыстанні тэрмін яе эксплуатацыі скарачаўся. Пры асваенні новых участкаў зямлі выкарыстоўвалі лядную сістэму. Спалучэнне развітога ворнага З. з ляднай сістэмай і папарам сведчыць аб рацыянальным вядзенні гаспадаркі.

*Літ.*: 463, 582, 590, 603, 785, 847, 848, 1072, 1278.

*У. Ф. Ісаенка, Т. М. Каробушкіна.*

**ЗЕРНЯЦЁРКА,** прыстасаванне для расцірання зерня на муку або атрымання круп. Складалася з масіўнага ніжняга плоскага каменя-валуна круглай, авальнай або падоўжанай формы (даўж. да 0,5 м), на рабочай паверхні якога рабілася паглыбленне, куды засыпалі зерне для апрацоўкі, і верхняга каменя-цёрачніка, які меў меншыя памеры, але дастатковую масу і плоскую рабочую грань (шыр. ў папярочніку 5—12 см, трапляюцца цёрачнікі з некалькімі рабочымі гранямі). На тэр. Беларусі З. паявіліся ў эпоху неаліту, калі

чалавек спачатку збіраў дзікае збожжа, а пазней вырошчваў злакавыя культуры. Асаблівае пашырэнне З. атрымалі ў жал. веку (7—6 ст. да н. э.— 8 ст. н. э.).

Звычайна З. знаходзяць у жытлах, недалёка ад агнішча або печы. Найчасцей трапляюцца верхнія камяні-цёрачнікі. Так, на помніках *днепра-дзвінскай культуры* на 10 ніжніх камянёў прыпадае некалькі дзесяткаў цёрачнікаў. На помніках *мілаградскай культуры* знойдзена больш за 20 З. На гарадзішчах каля в. *Чаплін* (Лоеўскі р-н) выяўлена 12, каля в. *Кашчэлічы* (Валожынскі р-н) — 8, каля в. *Гарадзішча* (Мядзельскі р-н) — 6 ніжніх камянёў ад З. Цалкам З. (з цёрачнікам) знойдзены на гарадзішчах каля в. *Замошша* (Полацкі р-н), Кашчэлічы, Гарадзішча (дыям. ніжняга каменя 57 см, верхняга — 54 см). У эпоху ранняга сярэднявечча на змену З. прыйшлі *жорны*.

*Літ.*: 772, 785, 847, 1313.

*Т. М. Каробушкіна.*

**ЗЛА́ТНІК** (ад старажытнарус. злато), умоўная назва першай залатой манеты, якая чаканілася на Русі (адначасова са *срэбранікам)*, тыпалагічна блізкая *намісме* (метрычная проба 916—958, *лігатурная маса* 4—4,4 г).

Першы выпуск, верагодна, быў прымеркаваны да хрышчэння Русі і жаніцьбы (989) вял. кн. Уладзіміра Святаславіча [980—1015] з Ганнай (сястрой візантыйскіх імператараў Васіля II і Канстанціна VIII). Вядомы З. двух разнавіднасцей. У адной з іх на *аверсе* выява ў анфас князя, які сядзіць, на яго галаве шапка з крыжам і падвескамі, у правай руцэ крыж з доўгім дзяржаннем, левая рука на грудзях, над левым плячом княжацкі знак-трызубец. Кругавая легенда напісана кірыліцай — **Владимир на столе.** На *рэверсе* пагрудная выява ў анфас Хрыста з крыжаватым вянцом-німбам, у левай руцэ Евангелле, правая — бласлаўляе; кругавая легенда — **Исус Христос.** Другая разнавіднасць З. адрозніваецца толькі аверснай легендай — **Владимира се его злато.** Вядомы 11 З., чаканеных 6 парамі *штэмпеляў*, 6 з якіх уваходзілі ў склад *Пінскага манетнага скарбу*. Эмісія З. абмежавана апошнім дзесяцігоддзем 10 ст.

*Літ.*: 1600, 1607. *В. Н. Рабцэвіч.*

**ЗЛЕДЗЯНЕ́ННІ,** ледавікоўі, гляцыялы, прамежкі часу, калі з пахаладаннем клімату поўнач Усх.-Еўрап. раўніны (у т. л. тэр. Беларусі) часткова ці поўнасцю пакрывалася ледавіком. На думку большасці даследчыкаў, у антрапагене з Скандынаўскага паўвострава на тэр. Беларусі не менш як 5 разоў насоўваліся ледавікі, якія поўнасцю або часткова перакрывалі яе. Першае З. (беларускае) адбывалася 600—560 тыс. г. таму назад, дасягнула Пд Беларусі. У час 2-га (бярэзінскага) З. (480—460 тыс. г. таму назад) ледавік укрываў усю тэр. рэспублікі, за выключэннем ПдУ. Ледавік 3-га (дняпроўскага) З. (320—250 тыс. г. таму назад) перакрываў усю тэр. Беларусі і быў пашыраны далёка за яе межы; лічаць, што ў гэты час сфарміраваўся рэльеф Пд Беларусі. У час 4-га (сожскага) З. (220—110 тыс. г. таму назад) ледавік прасунуўся прыкладна да паўн. мяжы Бел. Палесся; у гэты час канчаткова сфарміраваны рэльеф Бел. грады. У час 5-га (паазерскага) З. (95—10 тыс. г. таму назад) ледавік дасягнуў паўд. мяжы Бел. Паазер'я. У выніку З. у асноўным склаўся рэльеф тэр. Беларусі, раслінны і жывёльны свет. Напярэдадні максімуму апошняга З. (18 тыс. г. таму назад) на ПдУ тэр. Беларусі несумненна жылі людзі (гл. *Бердыж*, *Юравічы*), а ў час позналедавікоўя пачалося засяленне чалавекам усёй яе тэрыторыі.

*А. Г. Калечыц.*



Златнік: 1—2. Манеты 1-й разнавіднасці (2— з Пінскага манетнага скарбу). 3. Манета 2-й разнавіднасці.




Зліткі афінажныя: 1. 1840— 50-я г. 2—5. Канец 19— пач. 20 ст.

**ЗЛІ́ТКІ АФІНА́ЖНЫЯ,** манетападобныя вырабы з афінажнага (ачышчанага ад дамешкаў) серабра, якія выраблялі Пецярбургскі манетны двор у 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. Прызначаліся для вяртання серабром страт асобам, што здалі буйныя партыі залатой сыравіны для чаканкі манет. На *аверсе* — дзярж. герб, на *рэверсе* — адзнакі *метрычнай пробы* і масы.

**ЗЛІ́ТКІ ПЛАЦЕ́ЖНЫЯ,** адзін з відаў даманетных металічных грошай. На тэр. Беларусі абарачаліся сярэбраныя зліткі 3 відаў: кіеўскага тыпу (11—13 ст.) — ромб з усечанымі вострымі вугламі, памеры 9—10×4—5 см (*лігатурная маса* 140—165 г); наўгародскага тыпу (12—15 ст.) — лодкападобны брусок, злёгку ўвагнуты пасярэдзіне, даўж. 14—20 см (маса 200 г); зах.-рус. (літоўскага) тыпу (12—15 ст.) — палачкападобны злітак (маса 100—110 г), на «спінках» многіх экземпляраў адно ці некалькі глыбокіх уціскаанняў. У пісьмовых крыніцах З. п. называюцца *грыўняй, рублём,* срэбрам літым, ізроем (адноса

зах.-рус. тыпу), а палавінныя абрубкі зліткаў — *палціна*й. У стараж.-рус. грашовым абарачэнні вядома нязначная колькасць залатых З. п.

*Літ.*: 1599, 1615, 1640, 1647, 1686.

**ЗЛО́ТЫ** (польск. **złoty**) манетны намінал і грашова-лікавы тэрмін. 1) Назва дуката ў 14—15 ст. і парытэтнай яму сумы ў 30 *грошай польскіх* (1490-я г.) у Польшчы і ВКЛ. 2) Грашова-лікавая адзінка Польшчы, ВКЛ, Рэчы Паспалітай у 16—18 ст. У сувязі з патаненнем серабра з пач. 16 ст. рэальны і лікавы сэнсы З. адасабляюцца: па-ранейшаму азначае 30-грашовую суму, а для абазначэння дуката ўжываецца тэрмін злоты чырвоны. Рэформа 1526—28 увяла ў Польшчы грашовую сістэму, якая грунтавалася на лікавым З. = 30 грошам = 60 паўгрошам = = 90 шэлегам = 540 дэнарыям. 3) Сярэбраная манета 16 — сярэдзіны 19 ст., парытэтная 30 грошам польскім.

Вял. кн. Літоўскае. Выпускаў *Віленскі манетны двор*: талер (*паўкопка*) 1564—65 з адзнакай наміналу — **ХХХ** (*лотавая проба* XI 3/4, *лігатурная маса* 27,80 г). Рэч Паспалітая. Выпускалі Быдгашчанскі і Львоўскі манетныя двары (адзнакі двароў гл. ў арт. *Манетныя двары Рэчы Паспалітай*): польскі З. (тынф) 1663—66 з адзнакай наміналу — **ХХХ gro · pol.** (проба VIII, маса 3,36 г); *Віленскі манетны двор*: тымф літоўскі 1666 з адзнакай наміналу **ХХХ pol.** (проба VIII, маса 3,36 г); Быдгашчанскі манетны двор: 1/3 талера 1671 з адзнакай наміналу — 1/3 (проба каля XII, маса 9,30 г), *манета пробная*; Лейпцыгскі манетны двор (адзнакі двара гл. ў арт. *Манетныя двары Саксоніі*). З 1762 з адзнакай наміналу — **ХХХ gros : reg : polon**; Гданьскі манетны двор: З. 1763 з наміналам — **30:gr** (проба XII 1/6, маса 9,85 г). З 1766 З.— лікавая адзінка, роўная 30 медным грошам = 4 сярэбраным грошам. Выпускаў Варшаўскі манетны двор у 1766—69, 1771—95 у выглядзе 4-грашовікаў з адзнакай наміналу — **4.gr**. Герцагства Варшаўскае. Выпускаў Варшаўскі манетны двор. З., роўны 1/6 талера ў 1811—14 з адзнакай наміналу — 1/6 **talara**. Царства Польскае (у складзе Расійскай імперыі). Выпускаў Варшаўскі манетны двор у 1818—19, 1822—25 з адзнакай наміналу — **1 złotu**; у 1827—34 з адзнакай наміналу — **1 zło · pol**; Польшча. Выпускаў Варшаўскі манетны двор у 1831 з адзнакай наміналу — **1 złotu pol** (гл. ў арт. *Манеты мяцежныя*), манета пробная. 4) Папулярная ў канцы 19 ст.— пач. 20 ст. на Беларусі, Украіне, у Польшчы назва манеты вартасцю *пятнаццаць капеек*. 5) Грашовая адзінка Польшчы = =100 грошам.

*Літ.*: 1682, 1695, 1735. *В. Н. Рабцэвіч*.

**ЗЛО́ТЫ РУ́СКІ,** лікава-грашовае панятце ўсх.-бел. рынку 2-й пал. 18 ст. У бел. пісьмовых крыніцах упамінаецца ў 1751, 1769, 1771 (Орша), 1761 (Магілёў), 1762 (Ушачы), 1766, 1771 (Крычаў). Да сярэдзіны 18 ст. ва ўсх. раёны Беларусі масава паступала *капейка* з курсам у 3 *грошы польскіх*. Неабходнасць ліку грашовых сум у рус. манеце ўтварыла словаспалучэнне З. р. для абазначэння 10 капеек, парытэтных 30 грошам, г. зн. *злотаму* польскаму.

*Літ.*: 1694.

**ЗЛО́ТЫ ЧЫРВО́НЫ,** адна з назваў *дуката*. Гл. таксама *Злоты*.

**ЗМЕЕВІКІ,** металічныя амулеты ў выглядзе манетападобнай падвескі ці круглага складня ў Старажытнай Русі 11—14 ст. На вонкавым баку З. звычайна змяшчалася выява хрысціянскай сімволікі (Хрыстос, Маці Боская з дзіцем, архангелы, святыя), на адваротным — кругавы надпіс (заклінанне супраць хвароб) і «змяінае гняздо». Лічылася, што З. засцерагаюць ад хвароб і немачы. Свінцовы З. канца 13 — пач. 14 ст. знойдзены на Берасцейскім гарадзішчы (Брэст). На вонкавым баку — выява Багародзіцы Аранты з дзіцем, на адваротным — галава чалавека, ад якой адыходзяць 12 змяіных галоў на доўгіх тулавах; вакол выявы акружнасць і абадок з 31 кропкі (магчыма, гэта сімволіка з'яўлялася календаром). Медны З. (дыям. 52 мм) з вушкам для падвешвання знойдзены ў Заслаўі. На вонкавым яго баку выява галавы чалавека, абкружаная змеямі, абапал галавы 4 літары «дъна» («нутро»), адваротны бок без выяў. У Ваўкавыску выяўлены бронзавы медальён-З. з надпісам (аналаг залатога З. Уладзіміра Манамаха). На вонкавым яго баку выява архангела (магчыма, Міхаіла), на адваротным — змеі з галовамі барсаў (выраблены ліццём у гліняных двухбаковых формах). На Дрысвяцкім гарадзішчы знойдзены бронзавы З. з вушкам для падвешвання, на вонкавым яго баку выява конніка, які кап'ём забівае змяю, адваротны бок без выяў.

*Літ.*: 354, 702, 716. *Г. В. Штыхаў*.

**ЗМЯШЧЭ́ННЕ ШТЭ́МПЕЛЯ** ў нумізматыцы, дэфект у перадачы выяў *аверса* і *рэверса* з працоўнага інструмента (штэмпеляў, валоў вальцовачных машын) у працэсе чаканкі манеты. Вызначаецца З. ш. па значным несупадзенні цэнтраў выяў аверса і рэверса (адносна адзінага ці манетнага кружка), па парушэнні прынятых суадносін восей выяў (характэрныя для машыннай штампоўкі). Часцей З. ш. заўважаецца ў вальцаваных манетах, калі на асобных экземплярах на адным баку цэнтр нанесенай выявы супадае з цэнтрам манетнага кружка, а на другім адбіваюцца 2 часткі выявы, цэнтры якіх змешчаны адносна цэнтра манетнага кружка ў процілеглыя бакі. З. ш. трэба адрозніваць ад *двайнога ўдару штэмпеля*.

**ЗРУБ,** пабудова са ствалоў дрэў. На тэр. Беларусі вядомы з 11 ст. да н. э. Найб. ранні від зрубных збудаванняў меў слупавую канструкцыю, гэта значыць бярвёны мацавалі да ўкапаных у зямлю слупоў. У жытлах трэцяй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. спосаб мацавання сцен у кутах быў наступны: абодва канцы бярвён зачэсвалі з аднаго



**Зліткі плацежныя:** 1. Заходнерускі (літоўскі) тып; 2. Кіеўскі тып; 3. Наўгародскі тып; 4. Мініяцюра канца 13— пач. 14 ст. Святы Георгій (злева) раздае зліткі жабракам.

боку пад вуглом і ўстаўлялі ў прамавугольны паз кутавага слупа, выруб якога быў павернуты ўнутр пабудовы. Пазней вынайдзены спосаб злучэння праз устаноўку тарцовых частак дошак або зачасаных канцоў бярвёнаў у чатырохвугольныя ці трохвугольныя пазы слупоў. Такі спосаб злучэння сцен выяўлены ў час археал. раскопак найб. ранніх пластоў у Мінску, Полацку, Брэсце. З цягам часу слупавую канструкцыю выцесніла вянковая. Драўляныя вянкі (гарызантальныя рады бярвён, брусоў, плах, дыляў) звязвалі ў вуглах урубкамі і ўкладвалі адзін на адзін, утвараючы З. Найб. пашыраны быў спосаб злучэння вуглоў «у чашу». Выкарыстоўвалі таксама просты замок, «у замок», просты вугал. Вугал «у каню», акрамя выруба чашкі, меў дадатковы шып у адным бервяне і гняздо для яго ў другім. «Ластаўчын хвост» вырубалі наўскасяк з чашкі бервяна. У гэтых тыпах вуглоў канцы бярвён выступалі за вонкавыя плоскасці сцен. Злучэнні «ў замок», «у каню» і «ластаўчын хвост» выкарыстоўвалі ў Мінску ў 17—18 ст. Вырубы ў вуглах і пазы ўцяплялі мохам. Сцены мацавалі і драўлянымі калкамі — тэблямі, забітымі ў зробленыя ў вянках адтуліны. У пласце 17 ст. ў раёне Мінскага ніжняга рынка выяўлены зрубы з колатых уздоўж бярвён. Колатую частку змяшчалі знутры памяшкання. Найб. вянкоў З. знойдзена ў культурным пласце страж. Бярэсця.

*Літ.*: 385, 386, 425, 703, 785, 1346, 1347. *П. А. Русаў.*

**ЗРУ́БНАЯ КАНСТРУ́КЦЫЯ**, вянковая канструкцыя, сістэма прамавугольна пакладзеных і змацаваных паміж сабой бярвён, якая выкарыстоўвалася пры будаўніцтве жылых і гасп. пабудоў.

На тэр. Беларусі ўпершыню паявілася ў раннім жал. веку ў плямён палескага варыянта *зарубінецкай культуры (Атвержычы, Велямічы, Ліпнякі, Рубель).* Тут выяўлены паўзямлянкавыя жытлы прамавугольнай або блізкай да яе формы плошчай 8—35 м². Адсутнасць слупавых ям унутры катлаванаў і за іх межамі дазваляе рэканструяваць гэтыя пабудовы як зрубныя. Прататыпам іх хутчэй за ўсё паслужылі паўзямлянкавыя жытлы *паморскай культуры.* У пач. новай эры З. к. паявілася ў плямён *штрыхаванай керамікі культуры.* Найбольш раннія пабудовы такога тыпу на тэр. Беларусі ўпершыню зафіксаваны на паўд. пагранічны культуры *(Мыслі).* Ад палескіх жытлаў зарубінецкай культуры яны адрозніваліся толькі іншай канструкцыяй агнішчаў (замест глінабітных тут выкарыстоўваліся каменныя). Далей на Пн З. к. стала выкарыстоўвацца пры будаўніцтве традыцыйных наземных шматкамерных дамоў культуры штрыхаванай керамікі *(Вязынка).* У 2-й чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. зрубныя паўзямлянкі вядомы ў Магілёўскім Падняпроўі на селішчах *кіеўскай культуры (Адаменка, Тайманава).* Яны мелі прамавугольную або квадратную форму, плошча 8—24 м². У 2-й пал. 1-га тысячагоддзя н. э. З. к. зафіксавана ў большасці археал. культур на тэр. Беларусі, прычым усе пабудовы былі паўзямлянкавыя і адрозніваліся пераважна ўстройствам агнішча. На Пд Беларусі адна зрубная паўзямлянка выяўлена на селішчы *пражскай культуры* ў *Кажан-Гарадку* Лунінецкага р-на, пл. 15 м², ацяплялася агнішчам, складзеным з камянёў і балотнай руды. Далей на Пн для ацяплення жытлаў замест агнішчаў выкарыстоўвалі печы-каменкі. Зрубная паўзямлянка з печчу-каменкай выяўлена на селішчы *калочынскай культуры* каля в. *Шчаткава,* яна была прамавугольнай формы, пл. 16 м². Зрубныя паўзямлянкі вядомы на паселішчах *банцараўскай культуры (Дзядзілавічы, Гарадзішча* Мядзельскага р-на, *Равячка*), у якіх былі ў адным з куткоў печы-каменкі. Нягледзячы на пашырэнне ў 2-й пал. 1-га тысячагоддзя н. э. жытлаў З. к., яны яшчэ не сталі дамінуючымі і ўсюды суседнічалі са слупавымі пабудовамі.



**Змяшчэнне штэмпеля** на рэверсе шылінга 1621 Густава II Адольфа Вазы. Шведская Прыбалтыка, г. Рыга.

На ўсёй тэр. Беларусі З. к. пашырылася ў страж.-рус. перыяд (9—13 ст.) і стала асн. канструкцыяй драўляных будынкаў. У гарадах Беларусі ў 11—17 ст. З. к. выкарыстоўвалася амаль паўсюдна. Для зруба бралі ў асноўным хваёвыя бярвёны таўшч. 16—22 см, часам елку і дуб, якія клалі ў ніжніх вянках у якасці падмурка. Бярозу і асіну выкарыстоўвалі рэдка — пры будаўніцтве хлявоў і дапаможных памяшканняў. Ва ўмовах шчыльнай гар. забудовы зрубы, як правіла, рубілі па-за межамі горада, сцены мецілі насечкамі, потым зруб разбіралі, перавозілі ў горад і зноў збіралі. Зрубы з насечкамі-меткамі вядомы пры раскопках Бярэсця 13 ст., паасобныя бярвёны з насечкамі-меткамі выяўлены ў пластах 13—14 ст. на Верхнім замку ў Віцебску. Амаль да 19 ст. ў гарадах Беларусі рабілі зрубы ў чашку, або «ў абло». Чашка высякалася ў верхнім вянку зруба на глыбіню, роўную палавіне таўшчыні наступнага вянка. У верхнім вянку ўздоўж бервяна высякалі і трохвугольны паз прыблізна на $^{1}/_{6}$ таўшчыні бервяна для большай шчыльнасці мацавання. Для ўцяплення ў гэтыя пазы закладваўся балотны мох — сфагнум. Астанцы зруба роўна абсякалі на даўжыню не меней палавіны таўшчыні сцен, што было неабходна, каб вуглы не прамярзалі ўзімку. Астанцы ніжняга вянка рабілі даўжэйшымі для большай устойлівасці на культурным пласце, які мае нераўнамерную ўсадку. У плане зрубы былі блізкія да квадрата, пл. 9—30 м² у залежнасці ад функцыянальнага прызначэння (жытло, клець, хлеў і інш.). Каб павялічыць карысную плошчу, сцены зрубаў часам падчэсвалі (такі буд. прыём адзначаны ў зрубах 12—13 ст. у Гродне). У 14—16 ст. назіраецца павелічэнне плошчы зрубаў за кошт павелічэння буд. модуля бервяна. Зрубы памерамі 6,2×6,2 м і 6,7×6,7 м вядомы па раскопках Верхняга замка Віцебска ў пластах 14 ст. У 13 ст. ў Мінску і Полацку вядомы зрубы, выкананыя тэхнікай у «чысты вугал», г. зн. без астатка, што патрабавала акантоўкі вуглоў. Тэхніка ў «чысты вугал» пашыралася ў бел. гарадах у 16 ст. З яе выкарыстаннем збудаваны *падклецці*, вядомыя па раскопках Ніжняга замка Віцебска ў пластах 16—18 ст. Аднапавярховыя зрубы рубілі на выш. 2,4—3 м, двухпавярховыя былі ўдвая вышэй. Пры раскопках Бярэсця выяўлены цэлыя зрубы, што захаваліся на выш. да 12 вянкоў, у Віцебску на Верхнім замку ў пластах 13—14 ст.— на 5—6 вянкоў, на Ніжнім замку ў пласце 18 ст. выяўлена зрубнае падклецце на 8 вянкоў. Тэхніка ўзвядзення зрубаў, якая склалася да 13 ст., была настолькі дасканалай, што амаль без істотных змен захавалася да канца 18 ст.

*Літ.*: 359, 484, 550, 634, 785, 847. *А. А. Егарэйчанка, Л. У. Калядзінскі.*

**ЗЭ́ЛЬВА**, гарадскі пасёлак, цэнтр Зэльвенскага р-на, на р. Зальвянка, чыг. станцыя на лініі Ваўкавыск — Слонім, на аўтадарозе Ваўкавыск — Слонім. За 128 км на ПдУ ад Гродна. У Іпацьеўскім летапісе пад 1258 згадваецца, што кн. Даніла Галіцкі пайшоў на Навагародскую зямлю, захапіў Ваўкавыск, «ловя няти ворага своего Вышелка и Тевтивила... и воева по Зелеви ища его». Як горад ВКЛ называецца ў пісьмовых крыніцах з 15 ст. Магчыма, страж. паселішча З. існавала ў паўд.-ўсх. частцы сучаснага пасёлка, дзе ёсць гара, якая ўзвышаецца над наваколлем на 20—25 м і сваімі абрысамі вельмі нагадвае страж. гарадзішча. Пазней на гэтай гары пабудаваны касцёл (захаваўся фундамент). Архіўныя крыніцы 1-й пал. 17 ст. паведамляюць пра існаванне тут вала і «акопа» (землянога абарончага збудавання). Гісторык 19 ст. Ф. В. Пакроўскі адзначаў, што з усх. боку гары ёсць вал, які замыкае пл. каля 1600 кв. сажняў (3520 м²), за валам — 3 невялічкія курганы. Каля вала і курганоў знойдзены шаблі і

манеты, бронзавы пярсцёнак-пячатка з геральдычным знакам (у 1894 перададзены ў Віленскі музей).

За 3,5 км на ПдЗ ад пасёлка захавалася гарадзішча. Мясц. назва «Гарадзішча». Яго пляцоўка авальная, памер 65×30 м, з У умацавана ровам і валам, з З — 3 равамі і 2 valamі. З трох бакоў (Пн, З, Пд) тэраса выш. 5—10 м. Выявіў і абследаваў у 1973 Я. Г. Звяруга, абследавалі В. У. Шаблюк і С. А. Півоварчык. Культурны пласт таўшч. 0,6—0,8 м, выяўлена шмат камянёў.

За 300 м па ПнЗ ад гарадзішча, на тэр. былога хутара размешчаны курганны могільнік з 12 насыпаў. Іх дыям. ад 4 да 11 м, выш. 0,5—1,8 м. Адзін курган даследаваў Звяруга. Пахавальны абрад — трупаспаленне на ўзроўні стараж. гарызонту. Знойдзены рэшткі вял. глінянай пасудзіны тыпу жароўні.

*Літ.*: 431, 910. *С. А. Піваварчык.*

**ЗЭХСГРО́ШЭР** (ням. Sechsgröscher шэсць грошаў), назва манеты наміналам у *шэсць грошаў* у 17—18 ст.

**ЗЯНЬКЕ́ВІЧ** Рамуальд Сымонавіч (1.2.1811, Завілейскі пав. Віленскай губ., цяпер Швянчонскі р-н, Літва — 11.8.1868), беларускі археолаг, фалькларыст, этнограф, краязнавец, педагог. Скончыў Віленскі ун-т (1830). Працаваў настаўнікам на Свянцяншчыне, Пастаўшчыне, Ашмяншчыне, Піншчыне. Упершыню стварыў археал. карту Ашмянскага пав. Раскопак не вёў, аднак у 1843 зрабіў абмеры курганоў, гарадзішчаў, старых дарог, абарончых валоў, замчышчаў Ашмянскага пав. На Палессі даследаваў фальклор і этнаграфію краю, адначасова збіраў звесткі пра помнікі археалогіі. У час. «Athenaeum» (т. 5, 1848) апублікаваў працу «Пра курганы і гарадзішчы Ашмянскага павета». У працы «Пра ўрочышча і звычаі пінскага люду, а таксама пра характар яго песні» (Biblioteka Warszawska. 1852. T. 4; 1853. T. 1) даў звесткі пра гарадзішча і стараж. вал каля Турава, указаў на месца даўняга пабоішча каля Сташанаў над Ясельдай, на легендарную Авідогушаву гару каля Кажан-Гарадка, на многія курганы, зрабіў вывад пра глыбока стараж. засяленне гэтай тэр. Беларусі. Яго матэрыялы пра Крэўскі замак выкарыстаў М. І. Балінскі ў працы «Старажытная Польшча». О. Кольберг уключыў у 52-і том «Беларусь — Палессе» 219 песень, якія запісаў З.

*Літ.*: 1037, 1449. *Г. А. Каханоўскі.*

**ЗЯРНЕ́ННЕ,** адзін з відаў стараж. ювелірнай тэхнікі, які заключаецца ў напайванні на пласціну найдрабнейшых зярнят металу. Зерњь золата ці серабра пры дапамозе пінцэта наносілі на арнаментаваную пласціну, пасыпалі прыпоем і ставілі на жароўню. Паводле меркавання сав. археолага Б. А. Рыбакова, у ёмістасць з вадою праз рэшата лілі расплаўленае золата або серабро, якое распырсквалася на найдрабнейшыя кроплі. Зерню ўпрыгожвалі разнастайныя ювелірныя вырабы — колты, расна, фібулы, падвескі і інш. Зярнёныя пацеркі т. зв. мінскага тыпу лічыліся ўпрыгожваннем дрыгавічоў. Яны знойдзены пры раскопках Брэста, Мінска, курганнага могільніка *Каласы* (Рагачоўскі р-н). Трохпацеркавае скроневае кольца з зерню знойдзена пры раскопках могільніка *Юдзічы* (Рагачоўскі р-н). Да выдатных узораў стараж. ювелірных вырабаў, выкананых у тэхніцы З., належаць сярэбраныя падвескі і зорчаты колт з *Вішчынскага грашова-рэчавага скарбу.*

*Літ.*: 1010. *А. М. Ваганава.*



**ІААХІМСТА́ЛЕР** (лац. joachimicus, ням. Ioachimstaler), першы *талер,* эмісія якога адкрыта ў 1518 баронамі Шлік у г. Іаахімсталь (Багемія) з мясц. залежаў серабра (*лотавая проба* XIV $^4/_5$ да 1533 і XIV $^3/_{10}$ з 1534, *лігатурная маса* 29,50 г). На *аверсе* манеты — выява т. зв. чэшскага (багемскага) льва, на *рэверсе* — фігура св. Іаахіма ў анфас.

*Літ.*: 1712а.

**ІВА́НЬ,** гарадзішча *мілаградскай культуры* і *штрыхаванай керамікі культуры,* каля в. Івань Слуцкага р-на. За 0,95 км на ПдЗ ад вёскі. На правым беразе ручая, што ўпадае ў р. Лакнею (правы прыток Случы), ва ўрочышчы Замак. Пляцоўка амаль квадратная (78×73 м), з трох бакоў умацавана валам выш. 4 м, шыр. у аснове 15,5 м (з боку ручая ўмацаванні адсутнічаюць). Гарадзішча вядома з даўніх часоў. Невял. раскопкі правялі ў 1929 А. М. Ляўданскі і С. А. Дубінскі, у 1979, 1981—83, 1989—90 А. А. Егарэйчанка даследаваў 760 м$^2$ і зрабіў прарэзку вала. Культурны пласт ад 1,6 м каля ўнутранага схілу вала да 0,6 м каля цэнтра пляцоўкі. Прарэзка вала паказала, што першапачатковае паселішча ўзнікла ў 6—4 ст. да н. э., было неўмацаванае і належала плямёнам мілаградскай культуры. Пазней насыпаны земляны вал выш. 2 м і шыр. 8 м. У канцы 1 ст. да н. э.— пач. 1 ст. н. э. на гарадзішчы паявіліся носьбіты культуры штрыхаванай керамікі, якія рэканструявалі земляныя ўмацаванні — стары вал падсыпалі за кошт культурнага пласта да выш. 2,3 м, яго схілы ўмацавалі глінай, на грэбені новага насыпу паставілі драўляную сцяну. Пазней жыхары гарадзішча падсыпалі вал на выш. 4 м, шыр. ў аснове да 15,5 м. Пры зачыстцы мацерыка прасочаны рэшткі некалькіх пабудоў і шматлікія слупавыя ямы.

Адна пабудова прамавугольнай формы, памеры 5×2,8 м, арыентавана па лініі ПнЗ — ПдУ, яе межы акантоўваў равок. За 2,8 м ад першай размяшчалася другая пабудова таксама прамавугольнай формы (5,3×3,7 м). Па цэнтры яе 2 кароткіх сцен прасочаны ямы дыяметрам 0,3—0,4 м, відаць, ад апорных слупоў, што падтрымлівалі дах. Цэнтр. частка пабудовы разбурана больш позняй ямай. Абедзве пабудовы былі аднакамерныя, мелі зрубную канструкцыю сцен. За 12 м ад другой выяўлена трэцяя пабудова. Яна арыентавана па лініі ПнУ—ПдЗ (ускрыта часткова), пра-



**Іаахімсталер** 1525 Людовіка І.



Касцяное дзяржанне з цыркульным арнаментам з гарадзішча **Івань**.



Упрыгожанні з гарадзішча **Івань**.

мавугольнай формы. У запаўненні выяўлены абломкі ляпной штрыхаванай керамікі і косці жывёл. Пабудова мела зрубную канструкцыю сцен. Уздоўж унутранага схілу вала зафіксавана чацвёртая шматкамерная пабудова, выяўленая па слупавых ямах, што размяшчаліся 3 паралельнымі лініямі, крайнія лініі ям былі рэшткамі сцен, цэнтр. лінія слупоў служыла апорай для двухсхільнага даху. Межы памяшканняў дакладна не прасочваюцца. У адным з памяшканняў выяўлены рэшткі агнішча ў выглядзе гартаванага пяску, попельна-вугальнай плямы і абпаленых камянёў. Унутры і вакол агнішча выяўлена шмат фрагментаў рабрыстых штрыхаваных гаршкоў. Сярод знаходак — фрагменты гаршкоў мілаградскай культуры з прамым адагнутым вонкі венчыкам і выпуклым тулавам, частка якіх арнаментавана «жамчужынамі» і ямкавымі ўцісканнямі. Зарубінецкі посуд прадстаўлены фрагментамі грубаляпных і глянцаваных гаршкоў і місак. Рабрыстыя гаршкі культуры штрыхаванай керамікі нярэдка маюць арнаментацыю ў выглядзе гарызантальных і вертыкальных зашчыпаў, нарэзаў, пазногцевых і ямкавых уцісканняў на рабры або венчыку. Знойдзены таксама жал. кельт, нажы для жніва, сярпы, шылы, нажы, наканечнік кап'я, касцяныя праколка, амулет, 2 дзяржанні (адно багата ўпрыгожана цыркульным і ёлачным арнаментам), бронзавыя падвескі, ланцужкі, кольцы, бляшкі, пранізкі, акулярападобная фібула, пацеркі (шкляныя пазалочаныя, «у вочкі» і аднакаляровыя), гліняныя прасліцы (многія арнаментаваны наразнымі лініямі, кропкавымі наколамі, ямкавымі ўцісканнямі), жал. посахападобныя шпількі, абломкі тыгляў, льячак, ліцейная форма і інш.

Датуецца 6 ст. да н. э.— 1 ст. н. э.

*Літ.*: 356. *А. А. Егарэйчанка.*



Гарадзішча **Івань.**



Пацеркі з селішча **Востраў.**

**ІГНА́ЛІНА,** курганны могільнік крывічоў 8—10 ст. каля в. Ігналіна Верхнядзвінскага р-на. За 1,5 км на ПнЗ ад вёскі. 28 курганоў, з іх 2 доўгія, 2 падоўжаныя, астатнія круглыя. Дыям. круглых курганоў 6—12 м, выш. 0,7—1,5 м, шыр. доўгіх 4—4,6 м, даўж. 28—32 м, выш. 1,5 м, шыр. падоўжаных 5 м, даўж. 12—13 м, выш. 1,2 м. У 1974 З.М. Сяргеева раскапала 1 круглы курган. Пахавальны абрад — трупаспаленне. Знойдзены кальцыніраваныя косці і рэшткі памінальных вогнішчаў.

*Літ.*: 1092. *У. Дз. Будзько.*

**ІГНА́ЦЬЕЎ** Руф Гаўрылавіч [7(19). 9.1819, Масква — 2(14).1.1886], гісторык, археолаг, этнограф, музыказнавец. Скончыў Лазараўскі ін-т усх. моў у Маскве, кансерваторыю ў Парыжы. Член т-ваў: Маскоўскага археалагічнага, аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі, Вольнага эканамічнага, гісторыі, этнаграфіі і археалогіі пры Казанскім ун-це і інш. У 1877—80 рэдактар неафіцыйнага аддзела газеты «Минские губернские ведомости», чл. Мінскага губернскага статыстыч. к-та. Даследаваў курганы на Міншчыне, склаў карту археал. помнікаў Мінскага пав., збіраў музычны фальклор. Матэрыялы раскопак, запісы нар. песень і інш. экспанаваў на Антрапалагічнай выстаўцы ў Маскве (1879), дзе выступіў з дакладамі «Пра помнікі народнай творчасці ў Мінскай губерні» і «Пра помнік старажытнасцей у Мінскай губерні». Аўтар артыкулаў па гісторыі і археалогіі Наўгародскай і Арэнбургскай губ.

*Літ.*: 35, 5146. *Г. А. Каханоўскі.*

**ІГО́ЛКА,** прылада для шыцця. Уяўляе сабой тонкі шпень з завостраным канцом і вушкам для ніткі. У каменным веку І. выраблялі з касцей і рагоў жывёл, у бронзавым — з каляровых металаў і іх сплаваў, у жалезным — з жалеза. Пры археал. раскопках найчасцей трапляюцца на паселішчах, радзей — на могільніках. У стараж. Ваўкавыску, Полацку і інш. гарадах сустракаюцца разнавіднасці І.— касцяныя праколкі значных памераў з вушкамі. У стараж. курганах І. з ніткамі знойдзены толькі на тэр. рассялення радзімічаў (Карма-Пайкі Краснапольскага і двойчы каля в. Нісімкавічы Чачэрскага р-наў). На думку В. В. Сядова, звычай класці ў жаночае пахаванне І. з ніткамі звязаны з балцкай абраднасцю і сведчыць пра адносна познюю славянізацыю верхнедняпроўскіх балтаў.

*Літ.*: 988, 1063. *У. У. Багамольнікаў.*

**ІГО́ЛКАВАЕ ПЛЯЦЕ́ННЕ,** ручны выраб палатна з грубых нітак з дапамогай касцяной або драўлянай іголкі. Нітку згіналі ў петлі, якія счэплівалі і пераплятаді паміж сабой іголкай з уцягнутай у яе ніткай. Палатно складалася з канцэнтрычных пецельных радкоў шыр. да 2 см. Розныя спосабы пляцення стваралі розныя ўзоры. Асаблівасць І. п. ў нераспускальнасці і немагчымасці выкарыстаць доўгую нітку. З такога палатна выраблялі *вязёнкі*, сцілкі для абутку, панчохі. Найб. стараж. касцяная іголка для пляцення з вял. вушкам выяўлена ў пахаванні ранняга бронзавага веку (пач. 2-га тысячагоддзя да н. э.) каля Красна-сельскіх крэменездабыўных шахт. Плеценыя вязёнкі 13 ст. знойдзены пры раскопках у Полацку, Віцебску, Брэсце. І. п. было пашырана да 16 ст. Паступова замянялася вязаннем пруткамі і кручком. На Беларусі да сярэдзіны 19 ст. з палатна І. п. выраблялі панчохі без пяткі ў выглядзе падоўжанага конуса.



**Іголкавае пляценне.** Фрагмент рукавіцы 13 ст. з Віцебска.

*Літ.*: 691. *Г. В. Штыхаў.*

**І́ДАЛЫ,** каменныя, драўляныя або металічныя скульптурныя выявы язычніцкіх багоў. Лакальныя назвы — багі, балваны, *каменныя бабы*, куміры, стоды, ёлупы. У часы язычніцтва выявы І. устанаўлівалі на капішчах як аб'екты пакланення. Мяркуюць, што кожны І. быў увасабленнем пэўнага язычніцкага бога. Паводле летапісаў у 980 кн. Уладзімір паставіў у Кіеве побач са сваімі харомамі выявы Перуна, Хорса, Дажбога, Стрыбога, Сімаргла, Макошы. Пярун быў з дрэва, з сярэбранай галавой і залатымі вусамі. Пасля прынящця хрысціянства царква спрабавала прыстасаваць язычніцкія абрады да сваіх патрэб. У сувязі з гэтым вядомы выпадкі паўторнага выкарыстання І.: на іх выбівалі крыжы, альбо надавалі ім форму крыжа. Аднак значная частка І. пры хрышчэнні была знішчана, закапана ў зямлю ці ўтоплена ў вадаёмах і балотах. Найб. стараж. на Беларусі антрапаморфнымі выявамі, якія прынята лічыць І., з'яўляюцца фігуркі, знойдзеныя на паселішчы *Асавец* Бешанковіцкага р-на (позні неаліт і ранні бронзавы век). Ёсць звесткі пра І. у іншых месцах Беларусі. Мяркуецца, што большасць з іх была зроблена з дрэва і таму не захавалася. Каменныя І. былі выш. 0,6—1,2 м (металічныя меншых памераў) з выявамі ад 1 да 4 твараў. На поплаве Дняпра паміж Рэчыцай і Бабруйскам стаяў І.— слуп, на якім было выбіта 4 твары (не захаваўся). Каля вёсак Млыны Камянецкага і Багуслаўцы Пружанскага р-наў былі выяўлены каменныя І. з 3 тварамі (не захаваліся). Аднак большасць І. былі з адным тварам. З іх найб. вядомыя: *Шклоўскі ідал* («ёлуп», захоўваецца ў Дзярж. музеі БССР), *Слонімскі ідал*, І. з в. Астрамечава Брэсцкага р-на, з Лепеля, Ваўкавыска, з вёсак Грабаўцы і Залуззе Жабінкаўскага р-на (2 апошнія захоўваюцца ў Брэсцкім абл. краязнаўчым музеі). На І. з в. Грабаўцы галаўны ўбор накшталт капюшона, І. з в. Залуззе мае вочы і нос, ніжэй падбародка выбіты лініі, якія абазначаюць рукі. Пазней на 2 апошніх хрысціяне высеклі крыжы. Каля в. Богіна Браслаўскага р-на на востраве Богінскага воз. вядомы І. пад назвай «Стод». Яго вышыня адпавядае палавіне сярэдняга росту чалавека, рукі складзены на грудзях. Каля в. Слабодка Смалявіцкага р-на стаяў І., якога назвалі «Цар Давыд» (не захаваўся). Крыжападобныя І. выяўлены каля вёсак Стайкі Аршанскага і Даўгінава Вілейскага р-наў. У 1887 паблізу в. Ульянавічы Сенненскага р-на адкапаны І. у выглядзе чатырохграннага слупа. Каменны І. стаяў на кургане каля в. Сімахі Аршанскага р-на. У кургане каля в. Экімань Полацкага р-на адкапаны каменны І. з рысамі чалавека ўсх. тыпу. Маюцца няпоўныя звесткі пра каменных І. каля вёсак Чаплі Кобрынскага, Юхнавічы Слонімскага, Хоўхлава Маладзечанскага, Зубкі Клецкага, Войстам Смаргонскага р-наў і каля г. Слаўгарада. Паводле Г. Х. Татура, у канцы 19 ст. каменныя слупы з выявамі чалавечых твараў трапляліся ўздоўж Бярэзіны, Случы і Прыпяці. Ёсць звесткі, што каменныя І. захоўваліся ў музеі Полацкага кадэцкага корпуса. У 19 — пач. 20 ст. з Пд Расіі і Украіны былі прывезены на Беларусь некаторыя каменныя бабы. Магчыма, зааморфнымі І. былі выяўленыя ў Бабруйскім пав. камяні, якія нагадвалі ваўка і гуся. У 1850 каля Навагрудка знойдзена зробленая з гліны статуэтка жанчыны, якая сядзіць (некат. даследчыкі лічылі яе выявай блізкаўсходняй багіні Асторты). Пры раскопках гарадзішча Пруднікі Міёрскага р-на выяўлены гліняныя І. невял. памераў. Ёсць звесткі і пра І. з металу. У 1684 у руінах стараж. будынка каля Віцебска знойдзены залаты І. Перуна, у 1860 у наваколлі Барысава ў дупле дуба — 2 статуэткі з серабра і бронзы. У 19 ст. былі вядомы невял. металічныя І. з Пінскага пав., в. Багданава Вілейскага р-на, Камароўкі (цяпер у межах Мінска). Некалькі такіх І. захоўвалася ў музеі Полацкага кадэцкага корпуса.



Фібулы і бранзалеты 11 ст. з курганнага могільніка **Ізбішча.**

*Літ.*: 813, 1052, 1160, 1348.

*Л. У. Дучыц, Э. М. Зайкоўскі.*

**І́ЗБІШЧА,** археал. помнікі каля в. Ізбішча Лагойскага р-на.

Селішча 2-й чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. За 2 км на ПдЗ ад вёскі, ва ўрочышчы Калыскаўка, на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Дзвінаса. Памер 300×150 м. Адкрыў у 1985 М. М. Чарняўскі, даследавалі ў 1987—89 В. У. Казей, у 1990 Г. В. Штыхаў. Раскапана 824 м². Культурны пласт 0,5 м.

Выяўлены рэшткі печаў, складзеных з камянёў, невял. адкрытыя ачагі, гасп. ямы. Знойдзены 2 позналатэнскія фібулы 2—3 ст., гліняныя прасліцы, ляпны посуд (з расчосамі, штрыхамі, шурпатай і глянцавай паверхняй). Выяўлена кераміка *банцараўскай культуры* і *доўгіх курганоў паўночнай Беларусі культуры*. Найб. колькасць матэрыялаў 10—11 ст., калі пл. паселішча па-

меншылася да 2 га. Знойдзена бронзавая лунніца, арнаментаваная накладка для рэменя, бранзалет са змяінымі галоўкамі, гліняная форма для адліўкі ўпрыгожанняў, крэсіва, спражка, бразготка, ганчарная кераміка з простым і патоўшчаным венчыкам, сярэбраны злітак даўж. 0,9 см, вагой 19,76 г, шкляная пацерка з «вочкамі». Памерлых хавалі на суседнім могільніку.

Належала полацкім крывічам.

**Курганны могільнік.** За 800 м на Пд ад вёскі, за 30—50 м ад селішча на беразе р. Дзвінаса, цягнецца паласой (400×80 м) паралельна селішчу, 120 насыпаў, 5 падоўжаных, астатнія круглыя. Адкрыў у 1980 М. І. Лашанкоў, абследавалі ў 1982 Г. В. Штыхаў, у 1986 В. У. Казей. Ахоўныя раскопкі ў сувязі з будаўніцтвам вадасховішча праводзілі В. У. Казей (1987—89), В. Е. Собаль (1987), Г. В. Штыхаў (1990). Даследавана 108 курганоў выш. 0,5—2,5 м, дыям. 6—18 м. Вакол многіх раўкі глыб. 0,5—1 м, адкуль бралі пясок. Адзін курган выш. 3,5 м. У 8 курганах пахавальны абрад — трупаспаленне, у астатніх — трупапалажэнне. Пахаванні адзіночныя (зрэдку парныя) на гарызонце, дзе паліўся агонь, ці ў яме глыб. 0,4—0,6 м; жаночыя, мужчынскія і дзіцячыя арыентаваны на З ці з адхіленнем на ПнЗ, некаторыя мужчынскія — на Пн. Рукі выцягнуты ўздоўж тулава (зрэдку рукі складзены на жываце). Ёсць прыкметы дамавін (рэшткі дрэва), страў і *трызны* (косці птушак, рыбы, жывёл).



Бразготка 11 ст. з курганнага могільніка **Ізбішча.**

На шкілетах і побач выяўлены разнастайны інвентар. У жаночых пахаваннях бронзавыя скроневыя кольцы, пераважна драцяныя бранзалетападобныя з завязанымі канцамі, розных тыпаў пярсцёнкі, бранзалеты, шыйныя грыўні, бразготкі, круглыя падвескі, маністы са шкляных і каменных пацерак. У багатым пахаванні (курган № 26) былі 6 сярэбраных скроневых кольцаў, 2 арнаментаваныя пярсцёнкі, бронзавы грэбень з футаралам з 40 буйнымі золаташклянымі пацеркамі, маніста з сердалікавых пацерак і 9 сярэбраных падвесак (1 скандынаўская, выканана ў стылі «Барэ» з выявай драпежнага звера). У якасці падвесак выкарыстаны куфіцкія дырхемы, візантыйскія міліярысіі, заходнееўрапейскія дынарыі. У мужчынскіх пахаваннях звычайна каля ног знаходзіцца сякера, каля пояса — падковападобная спражка, нож, у асобных выпадках — наканечнікі дзідаў, двухшыпных стрэл, крэсівы, сярпы. У жаночых і мужчынскіх пахаваннях — гаршкі, большасць з якіх зроблена на ганчарным крузе. У курганах пахаваны сяляне, жыхары Полацкай зямлі, іх статус, відаць, быў блізкі да смердаў.



Упрыгожанні 11 ст. з курганнага могільніка **Ізбішча.**

Датуецца 10—пач. 12 ст.

*Літ.:* 1351. *Г. В. Штыхаў, В. У. Казей.*

**ІЗРО́Й,** назва *злітка плацежнага* заходнярус. тыпу (12—15 ст.). Упамінаецца ў пісьмовай «жалобе» віцебскаму кн. Міхаілу Канстанцінавічу (каля 1298).

**ІКА́ЗНЕНСКІ ЗА́МАК.** Існаваў у 16—17 ст. у в. Іказнь Браслаўскага р-на. Займаў паўд.-ўсх. край вострава «замак» на воз. Іказнь. Узвышаная частка пагорка (50×30 м) з Пн і У была абведзена мурам таўшч. 2 м, складзеным з валуноў і цэглы ў тэхніцы паласатай муроўкі. Зах. бок ахоўваўся гліняным валам, на якім стаялі драўляныя сцены. На паўд. краі замкавага пагорка была пабудова (20×18 м, таўшч. сцен 2 м), узведзеная з цэглы і валуноў у адной тэхніцы з мурам. У паўд. частцы пагорка на курганападобным насыпе стаяла драўляная вежа. На ўсх. рагу замка была ўзведзена 5-вугольная вежа-рандэль з валуннацаглянымі сценамі таўшч. 2 м. Схілы замкавага пагорка амаль да самай вады былі забрукаваны. Уезд у замак размяшчаўся па цэнтры зах. сцяны. Падыходы да замка і ўсю астатнюю тэр. вострава займаў падзамак. З Пд і ПдЗ ён быў абнесены земляным валам выш. каля 2 м з драўлянымі канструкцыямі на ім. Пад замкам, з паўн.-зах. боку, знаходзілася сажалка (47×17 м) для рыбы, злучаная спец. пратокай з возерам. Дно і берагі яе даўней былі абкладзены камянямі і тоўстымі дошкамі. Цераз сажалку да замкавай брамы вёў драўляны мост. З берагам замак быў злучаны драўляным мостам на чаўнах, які ў выпадку ваеннай небяспекі лёгка і хутка разбіраўся.

Замак і «места» Іказнь былі закладзены ў 1504 браслаўскім старостам Янам Сапегам на падставе прывілея вял. кн. ВКЛ і караля польскага Аляксандра. У 1515 войскі рус. ваявод аблажылі І. з. і спалілі мястэчка. Польскі гісто-

рык А. Гваньіні ў 2-й пал. 16 ст. адзначаў, што «Ікаэнь — замак мураваны і места драўлянае, ... ад Браслава ў 2 мілях ляжыць». У Лівонскую вайну 1558—83 Сапегі размясцілі ў 1561 у І. з. значны гарнізон наёмных войскаў. Пасля Яна Сапегі мястэчкам і замкам па частках валодалі кн. Пронскія, Страбоўскія, Сіняўскія і Езлавецкія. Апошнія ў 1589 прадалі замак разам «з арматамі і стрэльбамі» Яну Сапегу за 15 тыс. злотых. У 1654 замак быў узяты рус. войскамі, разбураны і страціў ваеннае значэнне.

Археал. даследаванні І. з. і падзамка праводзіў у 1971 і 1989 М. А. Ткачоў. Культурны пласт на тэр. замкавага двара ў раёне палацавай пабудовы 0,2—1,2 м складаецца ў асн. з буд. руін. Знойдзена кераміка 16—17 ст., гаршкападобная і каробчатая кафля, асобныя металічныя прадметы. Культурны пласт на тэр. падзамка 0,4—1,1 м. У ім прасочваюцца сляды не менш як 2 пажараў 16 і 17 ст. У раскопе пл. 32 м² выяўлены паліваны і непаліваны посуд, размаляваныя талеркі, гаршкападобная і багата аздобленая каробчатая (тэракотавая і паліваная) кафля, двухзубы відэлец, нажы з драўлянымі накладнымі тронкамі, гліняны тыгель са слядамі свінцу і інш. У час падводных археал. даследаванняў пад сценамі І. з. знойдзены абломкі керамікі 16—17 ст., паліваная кафля 17 ст., баявая сякера 16 ст., драўляныя чаўны-даўбёнкі, затопленыя на дне праліва паміж берагам і замкам, верагодна, у 17 ст.

*Літ.*: 1200. *М. А. Ткачоў.*

Гаршковая кафля 16 ст. (1—2), кафля «гарадок» з завяршэння печы 1-й пал. 17 ст. (3—4), кафля 1-й пал. 17 ст. (5—6), карнізная кафля 17 ст. (7—8) з **Іказненскага замка.**



**Іказненскі замак.** Малюнак з карты пачатку 17 ст.

**ІКАЎ** Канстанцін Мікалаевіч [11(23).2.1859, Масква — 14(26).7.1895], рускі антраполаг і археолаг. Скончыў Маскоўскі ун-т (1882). Чл. Т-ва аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі пры Маскоўскім ун-це (1882), Парыжскага і Італьянскага антрапалагічных т-ваў. Склаў першую ў Расіі Інструкцыю па антрапалагічных і антрапаметрычных даследаваннях. У час экспедыцыі ў Мінскую і Віцебскую губ. (1886) сабраў матэрыял для асн. працы па антрапаметрыі беларусаў, рускіх і ўкраінцаў (поўнасцю не выдадзена). Удзельнічаў у археал. раскопках у Разанскай губ.

*Тв.*: Отчёт по экспедиции в Белоруссию летом 1886 г. // Известия имп. О-ва любителей естествознания, антропологии и этнографии. 1887. Т. 51, вып. 1; Заметки по кефалометрии белорусов сравнительно с велико- и малорусами // Там жа. 1890. Т. 68, вып. 4.

*Літ.*: 60а, 68, 1163. *Л. В. Аляксееў.*

**ІКОНКА,** тое, што *абразок.*

**ІЛЬІЧ,** археал. помнікі каля пас. Ільіч Рагачоўскага р-на.

Селішча жал. веку і ранняга

сярэднявечча. На паўд. беразе воз. Станавое. Даследавалі ў 1928 археолагі Ін-та гісторыі АН БССР. Знойдзена грубаляпная і гладкасценная кераміка, ганчарны посуд.

Бескурганны могільнік-1 позняга этапу *зарубінецкай культуры.* На паўн. ускраіне пасёлка. Абследавала ў 1979 В. Л. Ліпніцкая. Знойдзены рэшткі разбураных пахаванняў з трупаспаленнем, фрагменты посуду, бронзавыя фібула і фрагмент арнаментаванага бранзалета.

Бескурганны могільнік-2 эпохі бронзы і жал. веку. За 300—600 м на З ад пасёлка, уздоўж берага старога рэчышча Дняпра. Разворваецца. На пл. 1,5—2 га трапляюцца кальцыніраваныя косці і фрагменты ляпнога посуду. Некалькі дзесяткаў м² даследаваў Л. Д. Побаль. Знойдзена каля 10 пахаванняў, у асноўным без інвентару. *Л. Д. Побаль.*

**ІМПЕРЫЯЛ** (лац. imperialis імперскі), залатая манета Расійскай імперыі 1755—1897 вартасцю ў 10 руб. (імперская Расійская манета).

Выпускалі з адзнакай наміналу — **цена десят. рублей:** Пецярбургскі манетны двор у 1755—59, 1762—63 (*залатніковая проба* 88, *лігатурная маса* 16,57 г), 1764—83, 1785—86, 1795—96 (проба 88, маса 13,09 г) і Красны манетны двор у Маскве ў 1756, 1758, 1762—63 (проба 88, маса 16,57 г); з адзнакай наміналаў — **десять рублей:** Пецярбургскі манетны двор у 1802, 1804—05 (проба 94 ²/₃, маса 12,17 г), з адзнакай наміналу — **10 рублей** у 1886—97 (проба 86 ²/₅, маса 12,9 г), з адзнакай наміналу — **империалъ, 10 рублей золотом** у 1896—97 (проба 86 ²/₅, маса 12,9 г). У выніку *грашовай рэформы Вітэ* ў 1897 выпушчаны І. той жа пробы і масы, што і выпускі 1886—97, але з адзнакай наміналу — **15 рублей** і *паўімперыял;* 10-рублёвікі, якія працягваў адбіваць манетны двор у 1896—1904, 1906, 1909—11 (проба 86 ²/₅, маса 8,6 г) складалі ²/₃ новага І. У 1910 15-рублёвыя І. выключаны з абарачэння. У 1755 Пецярбургскім манетным дваром адбіты залаты 20-рублёвік (проба 88, маса 33,14 г) з адзнакай наміналу — **цена двадцать рублей,** які з'яўляюцца падвоеным І.

*Літ.:* 1615, 1620. *В. С. Касмылёў.*

**ІНГУМА́ЦЫЯ** (ад лац. in-humo, inhumare пакрываць зямлёй), у археалогіі пахаванне па абраду *трупапалажэння* пад курганом на гарызонце або на падсыпцы ў курганным насыпе. Упершыню ў беларускамоўным археал. выданні тэрмін выкарыстаны А. М. Ляўданскім у 1928 пры апісанні пахавальнага абраду ў Заслаўскім курганным могільніку з тлумачэннем «звычайныя пахаванні ў гарызантальным палажэнні, на спіне». *Г. В. Штыхаў.*

**ІНДАЕЎРАПЕ́ЙЦЫ,** народы, якія сфарміраваліся ў розныя перыяды каменнага і бронзавага вякоў на тэр. ад сучаснай Індыі да зах. ч. Еўропы, размаўлялі на блізкіх мовах агульнага паходжання і мелі шмат агульных рыс у матэрыяльнай і духоўнай культурах. Аб прарадзіме І. існуе некалькі гіпотэз. Найбольш грунтоўна распрацавана канцэпцыя, паводле якой месцам першапачатковага рассялення І. была тэрыторыя ў межах Усх. Анатоліі, Паўд. Каўказа і Паўн. Месапатаміі. Адноснае адзінства поглядаў дасягнута і на храналагічныя межы агульнаіндаеўрап. перыяду — 5—4 тысячагоддзе да н. э. Пачаткам разыходжання асобных дыялектных груп І. было, відаць, 4-е тысячагоддзе да н. э. ці



К. М. Ікаў.

рубеж 4-га і 3-га тысячагоддзяў. Першыя з гэтых груп — анаталійская і грэка-армяна-арыйская. Археал. знаходкі даюць падставу меркаваць, што інда-іранскія (арыйскія) плямёны прасоўваліся на У у бок Афганістана праз Іранскае пласкагор'е, потым праз Сярэднюю Азію на З. Сляды арыйцаў выяўлены і ў Паўн. Прычарнамор'і (раён Кубані), у Прыкаспіі. На У Еўропы адбывалася судакрананне інда-іранскіх плямён з мясц. фіна-угорскім насельніцтвам, аб чым сведчаць узаемныя моўныя запазычанні. Існуе гіпотэза, паводле якой «другаснай» прарадзімай — зыходным арэалам зах. І. з'яўляюцца Паўн. Прычарнамор'е і Прыволжскі стэп («курганова» ці «старажытнаямная» этнакультурная вобласць). Адсюль плямёны І. маглі рухацца на З., што пацвярджаецца тыпамі пахаванняў і наяўнасцю стараж.-еўрап. гідраніміі, найб. канцэнтрацыя якой у Цэнтр. Еўропе і асабліва ў басейне Нёмана. Яшчэ да гэтага з складу І. вылучылася інда-іранская еднасць (скіфы і іх папярэднікі). Адносная пярэстасць культур Цэнтр. Еўропы 2-га тысячагоддзя да н. э. змяняецца да пач. 1-га тысячагоддзя да н. э. пэўнай культурнай агульнасцю — фарміруецца ўнеціцкая культура, вобласць культур палёў пахавальных урнаў, да якой адносяць таксама лужыцкую, паморскую, пшэворскую, зарубінецкую, чарняхоўскую, кіеўскую культуры (гл. адпаведныя артыкулы). З культурамі палёў пахавальных урнаў суадносяцца арэалы распаўсюджання плямён — продкаў кельтаў (гл. ў арт. *Латэнская культура*), ілірыйцаў, *германцаў, балтаў* і *славян.*

*Літ.:* 218, 467.



Імперыял: 1—2. Лізавета Пятроўна, 1755, 1757; 3. Кацярына II, 1781; 4. Аляксандр I, 1804; 5. Аляксандр III, 1886; 6—7, Мікалай II, 1896, 1899.

**ІНДУ́РА,** гарадзішча 11—13 ст. тыпу феадальна-ўладальніцкіх замкаў каля в. Індура Гродзенскага р-на. На паўн.-зах. ускраіне вёскі, за 500 м ад р. Індурка. Мае 2 пляцоўкі: цэнтральную (унутраную) і знешнюю. Унутраная амаль круглая ў

плане, дыям. 16—18 м, умацавана валам выш. каля 2 м. З паўн. боку вала 2 уезды. Перад валам прасочваецца роў. Знешняя пляцоўка авальная, памерам 45×48 м, абнесена валам выш. да 3 м. Уезд з паўн.-зах. боку вала, побач з ім круглая яма дыям. каля 12 м (відаць рэшткі студні). У паўд.-зах. частцы гарадзішча паміж унутраным і вонкавым валамі захаваліся рэшткі трэцяга вала выш. да 1 м. Даследавала ў 1955 К. Т. Кавальская. Культурны пласт на ўнутранай і знешняй пляцоўках 0,4—0,8 м.

Знойдзены разнастайныя прылады працы (сярпы, косы, жорны, рыбалоўныя кручкі, фрагменты багата і разнастайна аздобленай керамікі), упрыгожанні (фібулы, спражкі, бранзалеты), таксама наканечнікі стрэл, арбалетныя наканечнікі, шпоры і інш. Шмат касцей свойскіх і дзікіх жывёл (карова, конь, каза, авечка, алень, дзік, казуля), зярняты збожжавых культур. Выяўлены рэчы, блізкія да знаходак з раскопак *Гродзенскага Старога замка.*

*Я. Г. Звяруга.*

**ІНІЦЫЯЛЫ ГРАВЁРАЎ,** выбітыя на манетах Расіі 18 — пач. 19 ст. ў выглядзе ініцыялаў або прозвішчаў:

**АГ**— А. А. Грыліхес, на мемарыяльных рублях 1898 (з помнікам Аляксандру II) і 1912 (з помнікам Аляксандру III), ***пяці рублях*** 1887—89, 1892;

**А. ЛЯЛИНЪ** — А. Лялін, мемарыяльны рубель 1859 (з помнікам Мікалаю I);

**ВА** — В. Аляксееў, мемарыяльны рубель 1859 (з помнікам Мікалаю I);

**В** — І. Васільеў (?), рубель 1734;

**ВК** — В. Кліментаў (?), рубель 1775;

**З** — невядомы гравёр, ***чырвонец*** 1714;

**К** — невядомы гравёр, рублі 1720—21;

**КО** — невядомы гравёр, палціна 1720, рублі 1718—20;

**ЛШ** — Л. Штэйнман, мемарыяльны каранацыйны рубель 1883;

**М** — невядомы гравёр, ***палціна*** 1718;

**ОК** — невядомы гравёр, палціны 1718—19, рублі 1718—20, 1723—25;

**ПУ** — П. Уткін, ***манета-данатыва*** паўтарарублёвік-дзесяцізлотавік 1863;

**РЕЗАЛ ГУБЕ** — Г. Губе, мемарыяльны рубель 1841;

**Р. П. УТКІН** — П. Уткін, манеты-данатывы паўтарарублёвікі-дзесяцізлотавікі 1835—36;

**СЮ** — С. Юдзін, рублі 1758, 1762;

**ТІ** — Т. Іваноў, грывенікі 1766—76, дваццаць капеек 1764—76, паўпалціннікі 1764—65, палціны 1762—67, 1769, 1771—76, 1785, 1791, 1794—95, рублі 1757—76, 1783—96, чырвонец 1756, пяць рублёў 1765—76, дзесяць рублёў 1762—76, 1783, 1785—86, 1795—96;

**Ю** — С. Юдзін, чырвонец 1757;

**БS** — Б. Скотт, палціны 1754—56, 1758—61, рублі 1755—57, пяць рублёў 1756—59, дзесяць рублёў 1755—59, дваццаць рублёў 1755;

**ꟻCLF** — К. Леберэхт, партрэтны рубель Паўла I 1796;

**G** — С. Гуэн, паўпалціннікі 1701, 1713, чырвонцы 1710, 1712—13;

**GF** — С. Гуэн, палціны 1701;

**GUBE F.** — Г. Губэ, мемарыяльны рубель 1834 (з Аляксандраўскай калонай);

**H. GUBE F.** — Г. Губэ, мемарыяльныя рублі і паўтарарублёвік 1839 (з барадзінскім помнікам);

**LEBERECHT** — К. Леберэхт, рубель 1801;

**LEBERECHT F.**— К. Леберэхт, рублі 1806—07.

*Літ.*: 1530, 1620. *В. Н. Рабцэвіч.*

**ІНІЦЫЯЛЫ СЛУЖБОВЫХ АСОБ ЛЕЙПЦЫГСКАГА МАНЕТНАГА ДВАРА,** што набіваліся на польскай манеце для Рэчы Паспалітай *манетнымі дварамі Саксоніі.*

**EC, EDC** — Эрнст Дзітрых Кроль, кіраўнік (1753—63) манетнага двара;

**EPH** — Эрнст Пётр Хехт, мінцмайстар (1693—1715);

**IGG** — Іаган Георг Гадэке, кіраўнік (1752);

**L** — Леапольд, рэзчык штэмпеляў і медальер (1753—70);

**OE** — Іаган Леанард Эксляйн, рэзчык штэмпеляў (1753—54);

**S** — невядомы рэзчык штэмпеляў (1753).

*Літ.*: 1672, 1695. *В. Н. Рабцэвіч.*

**ІНІЦЫЯЛЫ СЛУЖБОВЫХ АСОБ МАНЕТНЫХ ДВАРОЎ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА,** што набіваліся на манетах пры іх вытворчасці:



Гарадзішча **Індура.** Агульны выгляд.




Наканечнікі стрэл (1—3), фібулы (4, 10—11), нажы (5—7), рыбалоўны кручок (8), праколкі (9, 14), бранзалеты (12—13), абоймы (15—17), ігральная косць (18), прасліца (19), іголкі (20—21), каса (22) з гарадзішча **Індура.**

**GFH** — Георг фон Горн, вардэйн (1665—66) Ковенскага манетнага двара;

**H** — Іеранім Валовіч, вял. ***падскарбі*** літоўскі (1603—18), Віленскі манетны двор (1607—15);

**HT** — Ганс Трыльнер, ***мінцмайстар*** і медальер (1618—39) Віленскага манетнага двара;

**HW** — гл. **H;**

**IT** — Іаган Трыльнер, мінцпрабірэр і медальер (1639) ***Віленскага манетнага двара;***

**ꟻH** — Іеранім Крышпін Кіршэнштэйн, вял. падскарбі літоўскі (1662—68), ***Брэсцкі манетны двор*** (1665—66), Віленскі манетны двор (1661, 1664—66);

**LP** — Людвік Пацей, вял. падскарбі літоўскі (1702—09), ***Гродзенскі манетны двор*** (1706—07);

**TLB** — Ціт Лівій Бараціні, трымальнік Брэсцкага (1665—66), Віленскага (1660—66) і Ковенскага (1665—66) манетных двароў.

*Літ.:* 1671, 1676, 1695. *В. Н. Рабцэвіч.*

**ІНІЦЫЯЛЫ СЛУЖБОВЫХ АСОБ МАНЕТНЫХ ДВАРОЎ КАРАЛЕЎСТВА ПОЛЬШЧЫ,** што набіваліся на манетах пры іх вытворчасці.

**A** — Андрэй Чарныша, манетчык (1401—02) Кракаўскага манетнага двара;

**ACPT** — гл. **AT;**

**AK** — Андрэй Кратоскі, уладальнік

(1612—30) Лабжаніцкага манетнага двара;

**AP, PA** — Антоній Партэнштайн, генеральны вардэйн (1772—74) *Варшаўскага манетнага двара;*

**AS, SA** — Андрэй Чарныша і Сімон дэ Таленціс, кіраўнікі Кракаўскага манетнага двара пры Уладзіславу II Ягайлу (1386—1434);

**AT, ACPT** — Андрэй Тымф, трымальнік Быдгашчанскага (1663—67), Усхоўскага (1650—59), Кракаўскага (1661—67), Львоўскага (1663) і Пазнанскага (1650—59) манетных двароў;

**B** — Барч, трымальнік (1684—85) Кракаўскага манетнага двара;

**BGA, GBA** — Батыста Джавані Амурэці, кіраўнік (1660—62) Львоўскага манетнага двара;

**BL** — невядомы рэзчык штэмпеляў або медальер Быдгашчанскага (1644—45) і Кракаўскага (1647—48) манетных двароў;

**BS** — невядомы рэзчык штэмпеляў або медальер Быдгашчанскага (1640—47) і Кракаўскага (1647—48) манетных двароў;

**CDC** — Клаўдзій дэ Каноцці, прадпрымальнік (1644—47) Кракаўскага манетнага двара;

**CG** — Крыстафор Гутман, кіраўнік Быдгашчанскага (1650—52) манетнага двара;

**C(G?)H** — невядомы манетчык Олькушскага (1585—86) манетнага двара;

**CHS** — Конрад Генрых Швердтнер, кіраўнік Гданьскага (1759—60) і Эльблёнгскага (1760—61) манетных двароў;

**CI** — Канстанцін Яблаnoўскі, інспектар (1765—68) Кракаўскага манетнага двара;

**CLM** — невядомы *манетчык* (1793) Гданьскага манетнага двара;

**CR, RC** — Каспар Рыткер, кіраўнік Люблінскага (1595—1601) і Олькушскага (1592—95 ?) манетных двароў;

**CS** — Хрысціян Шырмер старэйшы, вардэйн (1636—64) Гданьскага манетнага двара; Хрысціян Шырмер малодшы, вардэйн (1664—88) Гданьскага манетнага двара; Хрыстафор Шульц, кіраўнік (1671—73) Эльблёнгскага манетнага двара;

**DAL, DA** — невядомы рэзчык штэмпеляў (1650) Быдгашчанскага манетнага двара;

**DB, DR** — Даніэль Бётхер, кіраўнік (1760—63) Тарунскага манетнага двара;

**DG** — невядомы манетчык або рэзчык штэмпеляў (1623) Гданьскага манетнага двара;

**DL** — Даніэль Лесэ, кіраўнік (1657—85) Гданьскага манетнага двара;

**DR** — гл. **DB;**

**DS** — Даніэль Сайлер, медальер (1622) Быдгашчанскага манетнага двара;

**EB** — Эфраім Брэн, манетчык (1774—92) Варшаўскага манетнага двара;

**EK, K** — Эрнст Кнор, маінцмайстар (1597—1600) Усхоўскага і Пазнанскага манетных двароў, кіраўнік (1601) Быдгашчанскага манетнага двара;

**F** — Фалісфесіль (1407) або Фалькінберг (1412—13), мінцмайстры Кракаўскага манетнага двара;

**FB** — невядомы рэзчык штэмпеляў або медальер (1610) Кракаўскага манетнага двара;

**FI, IF** — Фірлей Ян, вял. падскарбі кароны (1590—1609) Быдгашчанскі (1594—98), Усхоўскі (1591, 1594—1601), Люблінскі (1596—1601), Мальбарскі (1594), Олькушскі (1590—1601), Пазнанскі (1590—1601) манетныя двары;

**FLS** — Фрыдрых Людзвіг Шцюбер, кіраўнік Эльблёнгскага (1762—63) і манетчык Гданьскага (1766—67) манетных двароў;

**FS** — Фрыдрых Сільм, манетчык (1765—67) Варшаўскага манетнага двара;

**G, L** — Гартэнберг (Пётр Мікалай Гартэнберг Садагурскі), адміністратар (1665—72) Варшаўскага і Кракаўскага манетных двароў;

**GBA** — гл. **BGA;**

**GFH** — Георг фон Горн, кіраўнік Мальбаркскага (1663—64) і Оліўскага (1663) манетных двароў;

**GG** — Габрыэль Герлеф, трымальнік (1640—44) Быдгашчанскага манетнага двара;

**GH** — невядомы манетчык (1585—86) Олькушскага манетнага двара;

**GP** — Герхардт Пірамі, кіраўнік (1647—50) Кракаўскага манетнага двара;

**CR** — Герхард Рогэ, кіраўнік і трымальнік (1639—57) Гданьскага і трымальнік (1643—49) Тарунскага манетных двароў;

**HDL, HHD** — Ганс Давід Ляўэр, вардэйн і мінцмайстар (1649—68) Тарунскага манетнага двара;

**HH** — Генрых Хема, вардэйн (1629—31) Тарунскага манетнага двара;

**HIL** — Ганс Якуб Ляўэр, намеснік адміністратара (1653—55) Тарунскага манетнага двара;

**HL** — гл. **HDL;**

**HL** — Ганс Ліпэ, трымальнік (1629—30) Тарунскага манетнага двара;

**HR, HR** — Герман Рудзігер, кіраўнік Быдгашчанскага (1596—1601) і Пазнанскага (1595—1601) манетных двароў;

**HS** — Генрых Сяверт, кіраўнік (1668—71) Тарунскага манетнага двара;

**HT** — Ганс Трыльнер, субутрымальнік (1598) Кракаўскага манетнага двара;

**HT** — Ганс Таке, манетчык (1598) Пазнанскага манетнага двара;

**HWS** — Генрых Вільгельм Селіус, кіраўнік (1761) Эльблёнгскага манетнага двара;

**II, IIYE** — Якуб Якабсон ван Эмдэн, кіраўнік Быдгашчанскага (1617—39), Гданьскага (1623—39), Тарунскага (1629—39) і Эльблёнгскага (1636—39) манетных двароў;

**III** — Іаан Юст Ястэр, кіраўнік (1755) Гданьскага манетнага двара;

**IC** — Якуб Чамер, адміністратар (1656) Кракаўскага манетнага двара;

**ICS** — Юст Карл Шродэр, кіраўнік (1762—63) Эльблёнгскага манетнага двара;

**ID** — Ян Дзітмар, трымальнік (1595—98) Усхоўскага і Пазнанскага манетных двароў; Ян Дульскі, вял. падскарбі кароны (1581—90), Олькушскі і Пазнанскі манетныя двары (1581—90);

**IDV** — невядомы рэзчык штэмпеляў (1656) Кракаўскага манетнага двара;

**IF** — гл. **FI;**

**IH** — Ян Хён, медальер (1635—36) Быдгашчанскага манетнага двара;

**IP** — Іаган Паульсан, мінцмайстар (1665—67) Эльблёнгскага манетнага двара;

**IPH** — Іаган Піліп Хальцхаусер, медальер і рэзчык штэмпеляў (1764—92) Варшаўскага манетнага двара;

**IR** — Якуб Ракасоўскі, вял. падскарбі каронны (1580); Олькушскі манетны двор;

**IS** — Юст Шрёдэр, манетчык (1772—74) Варшаўскага манетнага двара; Ян Сяверт, кіраўнік (1753) Гданьскага манетнага двара;

**IT** — Ян Там, манетчык (1655—57) Кракаўскага манетнага двара;

**K** — гл. **EK;**

**K** — Кратцэнбергер, рэзчык штэмпеляў і медальер (1759) Гданьскага манетнага двара;

**KB** — Іеранім Крышпін Кіршэнштайн, вял. падскарбі літоўскі (1662—68); Мальбаркскі манетны двор (1666);

**KM, MK** — Кернхен Мікалай і Марштын Станіслаў, кіраўнікі (1468—79) Кракаўскага манетнага двара;

**M** — невядомы рэзчык штэмпеляў і медальер (1765) Варшаўскага манетнага двара;

**MH** — Міхаіл Хадэрман, мінцпрабірэр і кіраўнік (1670—85) Быдгашчанскага манетнага двара;

**MK** — гл. **KM;**

**MP** — манетчык Мональд і мінцмайстар Пётр Борк (1391, 1393) Кракаўскага манетнага двара;

**MR** — Мельхіёр Райзнер, мінцмайстар (1597—98) і кіраўнік (1599—1601) Люблінскага манетнага двара;

**MRVM** — Мацвей Рыперс фон Майнінг, кіраўнік (1639) Быдгашчанскага манетнага двара;

**MS** — Мельхіёр Шырмер, трымальнік (1640—43) Тарунскага манетнага двара.

**MT, TM** — Марштын Станіслаў і невядомы Т., кіраўнікі (1456—68) Кракаўскага манетнага двара;

**N** — Мікалай, манетчык Кракаўскага манетнага двара пры Уладзіславу II Ягайлу [1386—1434];

**NG** — Мікалай Джылі, кіраўнік (1660—62) Пазнанскага манетнага двара;

**NH** — Мікалай Хенінг, кіраўнік (1652—65) Эльблёнгскага манетнага двара;

**NH, NH** — Мікалай Хёвель дэ Кальпіна, мінцмайстар (1585—87) Олькушскага манетнага двара;

**NP** — манетчык Мікалай і мінцмайстары Пётр Борк Кракаўскага манетнага двара пры Уладзіславу II Ягайлу [1386—1434];

**P** — Пётр Борк (1393), Пётр Глёч (1400), Пётр Галікус (1406), мінцмайстары Кракаўскага манетнага двара;

**PA** — гл. **AP;**

**PK** — Піліп Клювер, кіраўнік і медальер (1582—1612) Гданьскага манетнага двара;

**PZ** — Пётр Збароўскі, наглядчык (1580) Олькушскага манетнага двара;

**RC** — гл. **CR;**

**REOE** — Рудольф Эрнст Экерман, манетчык (1754—67) Гданьскага манетнага двара;

**RL** — Рафаіл Ляшчынскі, наглядчык каронных манетных двароў (1578—80) Олькушскі манетны двор (1580);

**RL** — Рудольф Леман, медальер і мінцпрабірэр (1599—1601) Усхоўскага і Пазнанскага манетных двароў;

**S** — Сіман дэ Таленціс, кіраўнік Кракаўскага манетнага двара пры Уладзіславу II Ягайлу [1386—1434];

**S**, гл. **ST**

**SA** — гл. **AS;**

**SA** — Самуіл Амон, рэзчык штэмпеляў і медальер (1613—21) Гданьскага манетнага двара;

**SB** — Санці дэ Урбаніс Бані, кіраўнік (1677—78) Быдгашчанскага манетнага

двара; Сіман Фрыдэрык Брукман, кіраўнік (1763—65) Тарунскага манетнага двара; Штэнцэль Берман, мюнцмайстар (1618—35) Гданьскага манетнага двара;

**SC** — Станіслаў Цыкоўскі, кіраўнік (1594—97) Быдгашчанскага манетнага двара;

**SCH** — Станіслаў Хжанстоўскі, кіраўнік (1655—58) Кракаўскага манетнага двара;

**SP, SVP** — Самуіл фон Пляхтэр, манетчык (1684—85) Быдгашчанскага манетнага двара;

**S, ST** — Спытэк Тарноўскі, падскарбі каронны (1532—49); Кракаўскі манетны двор (1546—48);

**ST** — гл. **S**;

**SVP** — гл. **SP**.

**TA** — Томас Альтэнбергер, трымальнік (1614—24) Кракаўскага манетнага двара;

**TBL, TLB** — Ціт Лівій Бараціні, трымальнік Быдгашчанскага (1667—82, ініцыялы TLB на манетах да 1687), Кракаўскага (1658—61, 1667—68, 1678—82, ініцыялы TLB на манетах да 1683), Уяздаўскага (1659—65) манетных двароў;

**TM** — гл. **MT**;

**TT** — Томас Тымф, трымальнік (1660—62) Быдгашчанскага і субтрымальнік (1661—67) Кракаўскага манетных двароў;

**VG** — гл. **G**;

**W** — Венке, мінцмайстар (1406—12) Кракаўскага манетнага двара;

**WR** — Вільгельм Рач, кіраўнік (1753—54) Гданьскага манетнага двара;

**WVE** — Вільгельм фон Эк, кіраўнік (1650—52) Эльблёнгскага манетнага двара.

*Літ.*: 1665, 1666, 1671, 1676, 1695, 1715. *В. Н. Рабцэвіч.*

**ІНІЦЫЯЛЫ СЛУЖБОВЫХ АСОБ МАНЕТНЫХ ДВАРОЎ РАСІЙСКАЙ ДЗЯРЖАВЫ** (1707—1917), што набівалі на манетах пры іх вытворчасці *(вардэйны, мінцмайстры, мінцпрабірэры,* начальнікі манетных пераробак, кіраўнікі, дырэктары).

Маскоўскія манетныя двары:

**А** — Афанасьеў (?) (1751);
**АШ** — Аляксей Шнезе (1766, 1768);
**ДМ** — Даніла Мачалкін (1762, 1770);
**DL** — Дзітрых Лефкен (1711—13);
**E, EI, I** — Ягор Іванаў (1752—70);
**I, IL, ILL, LL, L, ИЛ** — Іаган Львіс Ланг (1707—19);
**ІП** — Іван Плавільшчыкаў (1753—54);
**ІШ** — Ілья Шагін (1752—53);
**МБ** — Міхаіл Баброўшчыкаў (1754—57);
**СА** — Сцяпан Афанасьеў (1774—75);

Пецярбургскі манетны двор:

**АБ** — Аляксандр Белазёраў (1863);
**АГ** — Аўраам Гоцыус (1781);
**АГ** — Аляксандр Гертаў (1846—57);
**АГ** — Апалон Грасгоф (1883—99);
**АИ, AI** — Аляксандр Іванаў (1801—03);
**АИ** — Аляксей Іванаў (1799—1800);
**АК** — Андрэй Коцберг (1793—95);
**АР** — Аляксандр Радзько (1901—05);
**АС** — Агей Свечын (1864—65);
**АЧ** — Аляксей Чадаў (1839—43);
**АШ** — Аляксей Шнезе (1766—72);
**ВС** — Віктар Смірноў (1912—17);
**ГЛ** — Рыгор Львоў (1797);
**ДС** — Дзмітрый Сабанееў (1882—83);
**ЕГ** — Ягор Іванаў (1767—68);
**ІМ** — Іван Маркаў (1751—57);
**ІС** — Іван Сабельнікаў (1795—96);
**ИЗ** — Іван Зайцаў (1780—83);
**КБ** — Канстанцін Буценеў (1844—45);
**МБ** — Міхаіл Баброўшчыкаў (1798—1800);
**МИ** — Міхаіл Іванаў (1861—63);
**МК** — Міхаіл Клейнер (1808—11);
**ММ** — Міхаіл Міхайлаў (1783—84);
**МФ** — Міхаіл Фёдараў (1812—22);
**НГ** — Мікалай Грачоў (1825—41);
**НІ** — Мікалай Іоса (1848, 1852—55, 1866—78);
**НК** — Назар Кутузаў (1758—63);
**НФ** — Мікалай Фалендорф (1864—66; 1877—82);
**ОМ** — Осіп Мейджэр (1798—1801);
**ПА** — Павел Аляксееў (1846—52);
**ПД** — Павел Данілаў (1820—38);
**ПС, СП** — Павел Ступіцын (1810—25);
**ПФ** — Павел Фалендорф (1858—62);
**СА** — Сцяпан Афанасьеў (1764—70);
**СШ** — Сяргей Шастак (1865—66);
**ФБ** — Фёдар Блюм (1856—61);
**ФГ** — Фёдар Гельман (1803—17);
**ФЗ** — Фелікс Залеман (1899—1901);
**ФЦ** — Фёдар Цэтрэус (1797—1801);
**θЛ** — Фёдар Леснікоў (1773—79);
**ХЛ** — Хрыстафор Леа (1803—05);
**ЭБ** — Элікум Бабаянц (1899, 1906—13);
**ЯА** — Якаў Афанасьеў (1785—93);
**ЯІ, ЯИ** — Якаў Іванаў (1752—61, 1763—66);
**ЯЧ** — Якаў Чарнышоў (1770—76).

Екацярынбургскі манетны двор:

**ИК** — Іван Колабаў (1825—30);
**ИФ** — Іван Фелькнер (1811);
**ИШ** — Іван Шаўкуноў (1825);
**КТ** — Канстанцін Томсан (1837);
**НА** — Мікалай Аляксееў (1837—39);
**НМ** — Мікалай Мундт (1810—21);
**ПГ** — Пётр Граматчыкаў (1823—25);
**ФГ** — Франц Герман (1818—23);
**ФХ** — Фёдар Хвашчынскі (1830—37):

Сузунскі манетны двор (на манетах з адзнакай Калыванскага манетнага двара — КМ):

**АД** — Аляксей Дзейхман (1818—21);
**АМ** — Аляксей Малееў (1812—17);
**АМ** — Аляксей Мевіус (1821—30);
**ДВ** — Дзмітрый Біхтаў (1817—18);
**ПБ** — Пётр Беразоўскі (1810—11).

Колпінскі манетны двор (на манетах з адзнакай двара — ИМ):

**МК** — Міхаіл Клейнер (1810—11, на манетах з адзнакай манетнага двара ИМ і на адным з варыянтаў 2 капеек 1810 з адзнакай двара — КМ);
**ПС, СП** — Павел Ступіцын (1811—14);
**ФГ** — Фёдар Гельман (1810);
**ЯВ** — Якаў Вільсан (1820—21).

Тыфліскі манетны двор:

**АК** — Аляксей Карпінскі (1806—09, 1822—24);
**АТ** — Аляксей Трыфанаў (1810—22, 1826—31);
**ВК** — Васіль Кляйменаў (1831—33);
**ПЗ** — Пётр Зайцаў (1804—06).

Варшаўскі манетны двор:

**FH** — Фрыдэрык Хунгер (1827—32);
**IB** — Якуб Бенік (1816—27);
**IP** — Ежы Пуш (1834—35);
**KG** — Караль Гранаў (1830—34).

Гельсінгфорскі манетны двор:

**L** — Конрад Лір (1889—1911);
**S** — Аўгуст Фрыдрых Сольдан (1864—82);
**S** — Ісаак Сундзель (1912—17).

*Літ.*: 1530, 1620. *В. Н. Рабцэвіч.*

**ІНКРУСТАЦЫЯ** (лац. incrustatio ад incrusto пакрываю чым-небудзь), від аздаблення вырабаў узорамі ці сюжэтнымі кампазіцыямі з кавалкаў дрэва, косці, металу, шкла і інш., якія ўрэзваюцца ў паверхню прадмета і адрозніваюцца ад яго колерам ці матэрыялам. З археал. знаходак на Беларусі найбольш вядома І. металу па метале — насечка. У 11—13 ст. І. рабілі на дзяржаннях мячоў, нажоў, прылад працы, рыштунку конніка (асабліва на шпорах). На паверхні прадмета насякалі паглыбленні ў выглядзе арнаменту, выяў, імёнаў майстра, у якія запрасоўвалі палоскі бронзы або іншы каляровы метал. У 12—13 ст. пашырана І. залатымі і сярэбранымі пласцінамі па жалезе і медзі, косцю па дрэве (наканечнік кап'я, інкруставаны серабром, шпоры, дзяржанні нажоў з Віцебска, Заслаўя, Мінска, Пінска, Полацка і інш.).

*Літ.*: 277, 527. *М. Ф. Гурын.*

**ІНСТЫТУТ АРХЕАЛОГІІ** Расійскай акадэміі навук. Пераемнік створанай 18.4.1919 Расійскай (з 1926 Дзяржаўнай) акадэміі гісторыі матэрыяльнай культуры, якая ў 1937 увайшла ў сістэму АН СССР пад назвай Ін-та гісторыі матэрыяльнай культуры ў Ленінградзе з аддзяленнем у Маскве. З 1945 цэнтрам Ін-та стала маскоўская група, а Ленінградская — яго аддзяленнем. У 1959 Ін-т матэрыяльнай культуры перайменаваны ў Ін-т археалогіі АН СССР (з 1991 Расійскай АН), які прымаў актыўны ўдзел у вывучэнні бел. старажытнасцей.

У 1927 па запрашэнні Інбелькульта С. М. Замятнін узначаліў раскопкі палеалітычнай стаянкі *Бердыж.* Інтэнсіўныя археал. даследаванні тэр. Беларусі І. а. праводзіў у 1950—60-я г. У 1951 С. А. Тараканава выявіла ў Панямонні 14 помнікаў неаліту і бронзавага веку, 13 паселішчаў 11—12 ст., 4 курганныя групы, правяла невял. раскопкі гарадзішча *Мсцібава.* У 1960-я г. І. І. Арцёменка вывучаў помнікі бронзавага веку на ПдУ Беларусі, даў іх характарыстыку, вызначыў перыядызацыю, лакальныя варыянты і інш. У 1967 І. М. Цюрына вылучыла верхнедняпроўскія помнікі Беларусі і Смаленшчыны ў самастойную культуру і вызначыла 2 этапы яе развіцця. У 1950 на БССР і Смаленшчыне пачала функцыянiраваць Славянская экспедыцыя ін-та (кіраўнік П. М. Траццякоў), якая складалася з некалькіх атрадаў: Верхнедняпроўскі (Траццякоў), Палескі (Ю. У. Кухарэнка), з 1951 Дняпроўскі (В. М. Мельнікоўская). Працуючы на Пд Беларусі, Мельнікоўская выявіла найб. старажытныя помнікі жалезнага веку і вылучыла іх у *мілаградскую культуру* (7—3 ст. да н. э.), Траццякоў і Кухарэнка даследавалі тут помнікі *зарубінецкай культуры* (3 ст. да н. э.— 2 ст. н. э.), Траццякоў звязваў гэтую

культуру са славянамі, якія прыйшлі на землі балцкіх абарыгенаў. Кухарэнка раскапаў шэраг паселішчаў і могільнікаў, склаў зборы першабытных і сярэдневяковых помнікаў Палесся (1961, 1962) і помнікаў зарубінецкай культуры (1964). Ён устанавіў, што ў 2—4 ст. н. э. на Зах. Палессі была пашырана *вельбарская культура*. У 1961—63 ён разам з В. Б. Нікіцінай (Караткевіч) даследаваў на З Беларусі помнікі *паморскай культуры*. Э. А. Сымановіч у 1961—63 вылучыў на ПдУ Беларусі помнікі *калочынскай культуры* (5—8 ст.). Помнікі эпохі Кіеўскай Русі супрацоўнікі І. а. вывучалі з 1940-х г., але яшчэ ў 1932 на аснове археал. і гістар. крыніц Б. А. Рыбакоў апублікаваў буйную працу «Радзімічы», у якой змясціў карту курганных могільнікаў, прасачыў эвалюцыю пахавальнага абраду і яго лакальныя асаблівасці, вызначыў межы рассялення радзімічаў, прааналізаваў стан іх эканам. і грамадскіх адносін. А. Л. Мангайт у 1946 даследаваў Сафійскі і Спаса-Ефрасіннеўскі саборы ў Полацку, М. Р. Рабіновіч у 1948 вывучаў крэпасці 16 ст. (Суша, Туроўля, Сітна, Красны, Касьянаў і інш.). М. М. Варонін у 1947—48 вывучаў матэрыялы раскопак польскіх вучоных у Гродне, у 1949 поўнасцю раскапаў *Гродзенскую Ніжнюю царкву* 12 ст., намеціў эвалюцыю полацкіх помнікаў архітэктуры і выказаў меркаванне, якія з іх належалі дойліду Іаану. Гісторыю паўн. Беларусі на падставе археал. даследаванняў і інш. крыніц вывучаў Л. В. Аляксееў. У 1950—51 ён праводзіў археал. разведкі на Віцебшчыне, у 1955—56 даследаваў стараж. Браслаў, у 1956—67 — Друцк, у 1959—89 — Мсціслаў. Яму належаць працы па гісторыі бел. археалогіі і краязнаўства, тапаграфіі стараж. Віцебска (выдаў 2 манаграфіі, прысвечаныя паўн. і ўсх. Беларусі эпохі Кіеўскай Русі). У пач. 1950-х г. сельскія паселішчы радзімічаў 10—13 ст. даследавала А. В. Успенская, якая на значным фактычным матэрыяле ахарактарызавала узровень гасп. дзейнасці і побыт сельскага насельніцтва. У 1955 і 1957 раскопкі стараж. Пінска праводзіла Т. В. Раўдзіна, а дзядзінца стараж. Турава ў 1961 М. Д. Палубаярынава. У 1957—69 на чале Драўлянскага атрада І. П. Русанава даследавала археал. помнікі ў бас. Зах. Буга і Прыпяці, у шэрагу сваіх прац удзяліла значную ўвагу пытанням культурнай і этнічнай прыналежнасці раннесярэднявечных помнікаў на тэр. Беларусі. У 1961 В. В. Сядоў абследаваў гарадзішчы і курганныя могільнікі ў бас. р. Случ, Лань, Пціч, у ваколіцах Турава і Капыля, у паўд. частцы Брэсцкай вобл. Унёс значны ўклад у вывучэнне этнічнай гісторыі насельніцтва на тэр. Беларусі 2-й пал. 1-га тысячагоддзя да н. э.—1-й пал. 1-га тысячагоддзя н. э., выказаў меркаванне аб ролі балцкага субстрату ў фарміраванні бел. народнасці. У 1962—70 203 курганы радзімічаў даследавала Г. Ф. Салаўёва, яна пацвердзіла адзначаныя Рыбаковым лакальныя асаблівасці пахавальнага абраду, што, на яе думку, адпавядала племянному падзелу радзімічаў. З 1971 раскопкі курганоў у паўн. Беларусі праводзіла З. М. Сяргеева. Матэрыялы з археал. раскопак на Беларусі апрацоўвалі Г. А. Вазнясенская, А. У. Кір'янаў, Н. А. Кір'янава, Б. А. Колчын, Я. А. Цэпкін, Б. А. Чарных і інш.

*Літ.*: 34, 35, 44, 46, 47, 48, 56, 57, 58, 79, 205, 206, 207, 208, 410, 634, 636, 638, 641, 772, 801, 828, 946, 993, 998, 999, 1016, 1052, 1052а, 1056, 1060, 1063, 1088, 1089, 1090, 1091, 1112, 1113, 1115, 1116, 1117, 1121, 1143, 1146, 1231, 1237. *Л. В. Аляксееў.*

**ІНСТЫТУ́Т БЕЛАРУ́СКАЙ КУЛЬТУ́РЫ,** Інбелкульт (ІБК), першая на Беларусі цэнтр. шматгаліновая н.-д. ўстанова, папярэднік Акадэміі навук БССР. Засн. 30.1.1922 у Мінску на базе Навукова-тэрміналагічнай камісіі Наркамасветы БССР. Статут ІБК вызначаў асн. задачы: арганізацыю планамернага вывучэння бел. мовы, літаратуры, гісторыі, этнаграфіі, эканомікі, сацыяльна-эканам. і інш. праблем. У распрацоўцы першага статута ўдзельнічалі Я. Л. Дыла, З. Х. Жылуновіч (Ц. Гартны), Я. Ф. Карскі, У. І. Пічэта. Старшыні ІБК: С. М. Некрашэвіч (1922—24), У. М. Ігнатоўскі (1924—26, з 1927 прэзідэнт). Паводле структуры ІБК падзяляўся на секцыі, секцыі — на камісіі. Напачатку былі 2 секцыі — прыродазнаўчая і гуманітарная. У 1923—24 утворана гіст.-сацыялагічная секцыя, якая займалася падборам кадраў, укладаннем бібліяграфіі па гісторыі і археалогіі Беларусі, пад кіраўніцтвам А. М. Ляўданскага арганізавала раскопкі і разведкі археал. помнікаў у Мінскім і Барысаўскім паветах, пад кіраўніцтвам І. А. Сербава даследаванне курганных могільнікаў каля в. Рылаўшчына і *Пятроўшчына* пад Мінскам. З 1924 пры Прэзідыуме ІБК дзейнічала Цэнтр. бюро краязнаўства. У 1925 утворана гіст.-археал. камісія (старшыня М. В. Доўнар-Запольскі, вучоны сакратар Дз. І. Даўгяла, навук. супрацоўнікі Ляўданскі, К. М. Палікарповіч, С. А. Дубінскі, П. В. Харламповіч, Сербаў, А. Дз. Каваленя, А. Л. Аніхоўскі, С. С. Шутаў, М. М. Улашчык), якая займалася ўкладаннем археал. карты Беларусі, распрацоўкай перспектыўнага плана экспедыцый і бел. тэрміналогіі, вывучала вынікі археал. даследаванняў Беларусі ў дарэвалюцыйны час, узняла пытанне пра вяртанне ў рэспубліку матэрыялаў з археал. калекцый, сабраных на Беларусі, якія захоўваліся ў музеях Масквы, Ленінграда, Смаленска. У лістападзе 1925 у складзе гіст.-археал. камісіі ўтворана падкамісія па вывучэнні старажытнасцей, распрацоўцы пытанняў палітычнай, сацыяльнай і эканам. гісторыі Мінска. У ёй працавалі Каваленя, С. З. Кацэнбоген, А. М. Паноў, А. А. Сцепуржынскі, Улашчык, Шутаў і інш. У 1926 на сродкі Інбелкульта праведзены даследаванні ў Заслаўі (Ляўданскі, Каваленя), на р. Сож (Палікарповіч), каля Новага Быхава (Сербаў), на р. Астры і каля в. *Чаркасова* Аршанскай акругі (Аніхоўскі). Гіст.-археал. камісія падрыхтавала і склікала *Першы з'езд даследчыкаў беларускай археалогіі і археаграфіі* (17—18.1.1926). Удзельнікі з'езда прапанавалі камісіі падрыхтаваць і прадставіць заканадаўчым органам БССР законапраект аб ахове помнікаў гісторыі і мастацтва на Беларусі.

Паводле новага статута, прынятага ў 1927, структура Інбелкульта набліжана да Акадэміі навук. Ён меў 2 аддзелы (гуманітарных навук, прыроды і гаспадаркі), 17 кафедраў, 23 камісіі. Гіст.-археал. камісія і камісія па ахове старажытнасцей аб'яднаны ў Археал. камісію, якая займалася ўкладаннем бібліяграфіі па археалогіі Беларусі і прылеглых да яе тэрыторый, стварэннем каталога археал. помнікаў, апрацоўвала сабраны экспедыцыямі матэрыял, рыхтавала навук. даклады і публікацыі, працягвала ўкладанне археал. карты Беларусі і Смаленшчыны, дапамагала краязнаўцам ствараць мясц. археал. карты. У 1928 камісія пераўтворана ў кафедру археалогіі. Некаторыя археал. праблемы распрацоўваліся на кафедры гісторыі Беларусі (старaж. полацкае дойлідства і фрэскавы жывапіс 11—12 ст.), камісіі па вывучэнні гісторыі гарадоў і раёнаў Беларусі (ранняя гісторыя гар. населеных пунктаў). У выніку стварэння ў рамках Інбелкульта н.-д. установы, якая накіроўвала і каардынавала ўсе археал. даследаванні, на Беларусі былі разгорнуты планамерныя і сістэматычныя палявыя даследаванні, аб'яднаныя агульнай навук. праграмай, адкрыта значная колькасць старaж. паселішчаў і могільнікаў, назапашаны дакладныя крыніцы, якія сталі базай для гіст. рэканструкцый. Навук. дасягненні бел. археолагаў 1920-х г. адлюстраваны ў выданнях Інбелкульта «Гістарычна-археалагічны зборнік» (1927), *«Працы кафедры археалогіі»*. У 1929 Інбелкульт рэарганізаваны ў Беларускую АН. Кафедра археалогіі была пераўтворана ў Археал. камісію і ўвайшла ў склад Акадэміі.

*Літ.* 194, 2156. *В. С. Вяргей.*

**ІНСТЫТУ́Т ГІСТО́РЫІ** Акадэміі навук Беларусі. Створаны ў снежні 1929 на базе кафедры гіст. профілю б. *Інстытута беларускай культуры* (Інбелкульта), рэарганізаванага ў студзені 1929 у Бел. акадэмію навук. Праблемы археалогіі Беларусі распрацоўвала археал. камісія, перайменаваная ў 1932 у секцыю археалогіі. У яе штат уваходзілі А. М. Ляўданскі (загадчык), К. М. Палікарповіч і С. А. Дубінскі, якога абвінавачвалі ў нацдэмаўшчыне і ён быў вымушаны пакінуць Беларусь. У снежні 1932 на яго месца прыняты А. Дз. Каваленя. Супрацоўнікі секцыі археалогіі зрабілі значны ўклад у археал. вывучэнне

Беларусі, на тэр. якой у 1930-я г. ў выніку суцэльнага абследавання было зафіксавана каля 800 стаянак каменнага і бронзавага вякоў, 864 гарадзішчы і больш за 100 селішчаў жал. веку, каля 20 бескурганных і 3000 курганных могільнікаў, аформлена каля 8000 уліковых картак на помнікі археалогіі і асобныя рэчы, зроблена шмат фотанегатываў, планаў і чарцяжоў асобных аб'ектаў. Назапашаная крыніцазнаўчая база дазволіла стварыць першую навук. перыядызацыю дагісторыі Беларусі. Абгрунтаваны шэраг слушных высноў: выказаны меркаванні пра час і характар першапачатковага засялення Верхняга Падняпроўя, прапанавана першасная схема храналагічных змен у матэрыяльнай культуры насельніцтва ў перыяд мезаліту, неаліту, бронзавага веку (Палікарповіч), адзначаны храналагічныя і рэгіянальныя асаблівасці помнікаў жал. веку, абгрунтаваны тэзіс аб пераважнай ролі вытворчых форм гаспадаркі і мясцовым характары жалезаробчай вытворчасці ў гэты час, пачата распрацоўка пытанняў гіст. тапаграфіі і рамяства старaж. гарадоў, вызначаны асаблівасці і самабытнасць полацка-віцебскай манументальнай архітэктуры і жывапісу 12 ст., прасочаны пэўныя храналанічныя і этнічныя рысы пахавальнай абраднасці на тэр. Беларусі ў 8—12 ст. (Ляўданскі, Дубінскі, Каваленя, М. М. Шчакаціхін, І. А. Сербаў). У даваенны час закладваліся многія кірункі сучаснай археалогіі Беларусі, выпрацоўваліся новыя метады даследавання з выкарыстаннем даных прыродазнаўчых і тэхнічных навук, пачала фарміравацца бел. школа археалогіі. Вынікі палявых даследаванняў і матэрыялы навук. канферэнцый друкаваліся ў *«Працах археалагічнай камісіі»* (1930), *«Працах секцыі археалогіі»* (1932), «Запісках Беларускай акадэміі навук» і шэрага бел. і саюзных перыядычных і спец. выданняў. У 1933 выйшла падрыхтавання Дубінскім «Бібліяграфія па археалогіі Беларусі і сумежных краін». Вял. страты панесла бел. археалогія ў выніку рэпрэсій 1930-х г., калі былі арыштаваны і расстраляны Ляўданскі, Дубінскі і Каваленя. У секцыі археалогіі І. г. застаўся працаваць толькі адзін навук. супрацоўнік — Палікарповіч.

Пасля рэпрэсій і 2-й сусветнай вайны дзейнасць секцыі археалогіі, перайменаванай у сектар археалогіі І. г., аднавілася ў снежні 1944. Спачатку ў ім працавалі Палікарповіч, В. Р. Тарасенка, У. Галубовіч, Г. Цэгак-Галубовіч (апошнія неўзабаве пераехалі ў Польшчу), у 1949 супрацоўнікам сектара стаў А. Р. Мітрафанаў. Дзейнасць сектара абмяжоўвалася раскопкамі помнікаў палеаліту, гарадзішчаў цэнтр. і паўн. Беларусі і старажытных Мінска і Ваўкавыска. З 2-й пал. 1950-х г. колькасць супрацоўнікаў сектара стала павялічвацца, рос іх прафесіяналізм, што спрыяла пашырэнню тэматыкі археал. даследаванняў (у 1955 у сектары працавалі 2 кандыдаты навук, у 1965 — 4, у 1975 — 8, у 1985 — 15 кандыдатаў і 2 дактары навук). Загадчыкамі сектара археалогіі І. г. працавалі Палікарповіч (1944—61), Тарасенка (1961—65), У. Дз. Будзько (1965—70), Л. Д. Побаль (1970—80). У пасляваенныя гады значна ўзрос маштаб палявых работ, якія выконвалі супрацоўнікі І. г., раскопкамі была ахоплена ўся тэр. Беларусі. Удасканальвалася методыка раскопак, культ. пласт даследаваўся вял. плошчамі, што дазволіла выяўляць жылыя і гасп. комплексы, ускрыць значную колькасць грунтавых пахаванняў. Гэта ўзбагаціла бел. археалогію новымі адкрыццямі, што дало магчымасць вырашыць шэраг пытанняў старaж. гісторыі. Ажыццёўлена археал.-культ. стратыфікацыя шматлікіх крыніц. Сістэматызацыя навук. даных адбывалася шляхам вылучэння і апісання археал. культур, якія разглядаліся як пэўныя этапы сацыяльна-эканам. і этнічнай гісторыі першабытнага грамадства. У 1980 у І. г. створаны аддзел археалогіі (заг. Побаль) у складзе 2 сектараў — археалогіі першабытнага грамадства і сярэдневяковай археалогіі. У 1981 з іх вылучаны сектар археалогіі зон новабудоўляў, у 1986 усе сектары пераўтвораны ў аддзелы. У 1991 аддзел археалогіі першабытнага грамадства падзелены на 2 аддзелы: каменнага і бронзавага вякоў, жалезнага веку.

Аддзел археалогіі каменнага і бронзавага вякоў (заг. М. М. Чарняўскі). На падставе выяўленых у час раскопак стаянак, могільнікаў і іншых археал. аб'ектаў даследуе найбольш старaж. эпохі першабытнага грамадства — палеаліт, мезаліт, неаліт і бронзавы век. Значная ўвага аддаецца вывучэнню характару і этапаў першапачатковага засялення тэр. Беларусі ў познапалеалітычны час (А. Г. Калечыц), асаблівасцей археал. культур, іх генезісу, узаемаўплываў, распаўсюджання земляробства і жывёлагадоўлі на нашых землях, часу з'яўлення першых металаў, этнакультурных працэсаў, першабытных вераванняў (Э. М. Зайкоўскі, У. Ф. Ісаенка, Калечыц, М. М. Крывальцэвіч, У. П. Ксяндзоў, Н. В. Шаблюк, М. М. Чарняўскі, І. М. Язэпенка). Асаблівае значэнне мае вывучэнне Краснасельскіх крэменездабыўных шахтаў і крэменеапрацоўчых майстэрняў, тарфянікавых стаянак на Віцебшчыне (В. Я. Кудрашоў, В. Л. Ліпніцкая, Чарняўскі).

Аддзел археалогіі жалезнага веку (заг. В. І. Шадыра). Даследуе гісторыю старaж. насельніцтва на тэр. Беларусі і яго сувязей з балцкім, фіна-угорскім, скіфскім і слав. асяроддзем, археал. культуры славян і балтаў у 8 ст. да н. э.— 8 ст. н. э. Ахеал. даследаванне тэр. паўд. Беларусі праводзяць В. С. Вяргей, Н. М. Дубіцкая, М. І. Лашанкоў, С. Я. Расадзін, паўн. Беларусі — А. У. Ільюцік, А. М. Мядзведзеў, Шадыра), распрацоўваюцца палеатэхнагеаграфічны (Расадзін), палеаэкалагічны (Шадыра), палеатэхналагічны (Дубіцкая, Т. С. Скрыпчанка) кірункі даследаванняў, вывучаецца зброя і ваенная справа старaж. плямён на тэр. Беларусі (Г. В. Ласкавы).

Аддзел археалогіі сярэдневяковага перыяду (заг. П. Ф. Лысенка). Асноўная праблематыка даследаванняў — гісторыя насельніцтва тэр. Беларусі ў 9—13 ст. (рассяленне усх.-слав. плямён, іх сацыяльна-эканам. развіццё, утварэнне гарадоў і сельскіх паселішчаў і інш.). Найбольш значныя дасягненні ў вывучэнні паходжання і развіцця старaж. гарадоў як палітычна-адм. і ваенна-абарончых цэнтраў, асяродкаў эканам., гасп., рамеснага, гандл., культ. і рэлігійнага жыцця навакольных тэрыторый. Супрацоўнікі аддзела даследавалі старажытныя Тураў, Пінск, Брэст, Давыд-Гарадок, Клецк, Слуцк, Рагачоў (Лысенка), Ваўкавыск, Слонім, Турыйск (Я. Г. Звяруга), Віцебск (Л. У. Калядзінскі, Т. С. Бубенька, В. М. Ляўко), Слуцк (Калядзінскі), Навагрудак (Бубенька), Клецк (В. С. Пазнякоў), Крычаў, Слаўгарад (А. М. Мяцельскі). Па ініцыятыве і з удзелам супрацоўнікаў аддзела створаны унікальны *археалагічны музей Бярэсце.* Даследуюцца сельскія паселішчы Панямоння 14—18 ст. (В. У. Шаблюк) і паўд. Беларусі 9—13 ст. (А. В. Іоў), распрацоўваюцца праблемы развіцця земляробства ў 9—13 ст. (Т. М. Каробушкіна), жывёлагадоўлі і палявання (Н. П. Александровіч), пытанні рассялення дрыгавічоў (Лысенка, Каробушкіна, Звяруга).

Аддзел археалагічных даследаванняў зон новабудоўляў (заг. Г. В. Штыхаў). Арганізуе і праводзіць на дагаворных асновах археал. даследаванні ў зонах новабудоўляў у адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам па ахове помнікаў археалогіі. Праводзіць палявыя археал. даследаванні непасрэдна на новабудоўлях, стацыянарныя раскопкі помнікаў, якім пагражаюць буд. работы. Зроблены буйныя ахоўныя раскопкі на помніках жал. веку і эпохі феадалізму на тэр. Полацкай зямлі. Раскопкі адбываліся ў зонах гар. забудовы Мінска, Полацка, Віцебска, Заслаўя, Оршы і інш., а таксама на гарадзішчах і могільніках Пруднікі, Маскавічы, Ізбішча і інш. Найбольш шырокія даследаванні праведзены ў 1984—89 у зоне будаўніцтва 2-й чаргі Мінскага метрапалітэна на ўчастку вала Мінскага замчышча, што прылягае да тэр. Ніжняга рынку, у Верхнім горадзе, у раёне кафедральнага сабора. Супрацоўнікі аддзела займаюцца вывучэннем Полацкай зямлі 9—16 ст., пытанняў фарміравання яе тэрыторыі, сацыяльна-палітычнага і эканам. развіцця, адм.-тэр. структуры матэрыяльнай і духоўнай культуры, праводзяць раскопкі гарадоў, паселішчаў і пахавальных помнікаў (Штыхаў, Ю. А. Заяц, Л. У. Дучыц, С. В. Тарасаў), помнікаў жал. веку (Ю. У. Каласоўскі), даследуюць гарады, мястэчкі, замкі, сельскія паселішчы, архіт. ансамблі 14—18 ст. (Ляўко, З. С. Пазняк, І. У. Ганецкая, Ю. М. Бохан), каменныя магі-

10. Зак. 223

лы (А. В. Квяткоўская), гісторыю металургіі (М. Ф. Гурын).

У розныя часы ў І. г. працавалі М. У. Бычкоў, Ю. І. Драгун, Г. М. Залашка, А. А. Егарэйчанка, Э. М. Загарульскі, Н. І. Здановіч, Я. Г. Краскоўская, А. К. Краўцэвіч, У. М. Мілюцін, Л. Р. Панічава, П. А. Русаў, В. Е. Собаль, М. А. Ткачоў, І. М. Ціханенкаў, К. П. Шут, В. А. Шчаглова і інш.

Археолагі І. г. за пасляваенныя гады напісалі і апублікавалі дзесяткі манаграфій і брашур, сотні артыкулаў, у т. л. для БелСЭ і «Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі», выдалі калектыўныя манаграфіі «Нарысы па археалогіі Беларусі (ч. 1—2, 1970—72), «Беларуская археалогія. Дасягненні археолагаў за гады Савецкай улады» (1987), а таксама «Археалагічная карта Беларусі» (в. 1, 1968, в. 3 1976, Ісаенка; в. 2, 1971, Штыхаў) і «Археалогія Беларусі. Бібліяграфічны паказальнік (1932—1975)» Каробушкінай (1988) і інш. І. г. выдае дазволы (адкрытыя лісты) на правядзенне раскопак на тэр. Беларусі, каардынуе тэматыку навук. даследаванняў. У інстытуце наладжана падрыхтоўка спецыялістаў-археолагаў, дзейнічае спецыялізаваны Савет па абароне доктарскіх дысертацый, у т. л. і археалагічнага профілю, захоўваецца вял. калекцыя археал. матэрыялаў, сабраная за дзесяцігоддзі экспедыцыйных работ, архіў, дзе зберагаюцца справаздачы аб выніках палявых даследаванняў, і інш. дакументы.

*В. С. Вяргей, П. Ф. Лысенка, М. М. Чарняўскі, В. І. Шадыра, Г. В. Штыхаў.*

**ІНСТЫТУТ ГІСТОРЫІ МАТЭРЫЯЛЬНАЙ КУЛЬТУРЫ** Расійскай акадэміі навук. У 1945 створана Ленінградскае аддзяленне Ін-та гісторыі матэрыяльнай культуры АН СССР, перайменаванага ў 1959 у Ін-т археалогіі АН СССР. З 1959 Ленінградскае аддзяленне Ін-та археалогіі АН СССР, з 1991 Ін-т гісторыі матэрыяльнай культуры Расійскай акадэміі навук. Яго супрацоўнікі актыўна ўдзельнічалі ў вывучэнні старажытнасцей на тэр. Беларусі. У 1957 Н. М. Гурына выявіла ў Панямонні 61 стаянку ад верхняга палеаліту да бронзавага веку, пры раскопках некаторых з іх у 1960—61 устанавіла, што большасць з даследаваных помнікаў адносяцца да *свідэрскай культуры.* З 1961 яна пачала сістэматычнае даследаванне Краснасельскіх шахтаў па здабычы крэменю эпохі неаліту і бронзавага веку ў Ваўкавыскім р-не (выяўлена больш за 500, даследавана каля 150 шахтаў). Ёю выяўлены сляды мацаванняў у шахтах (у выглядзе ям ад драўляных слупоў), прылады працы шахцёраў (кайлы з рагоў аленяў, невял. кінжалападобныя прылады і загатоўкі сякер). У 1955—57 у складзе Славяна-літоўскага атрада Прыбалтыйскай экспедыцыі Ф. Д. Гурэвіч правяла разведвальныя работы ў левабярэжжы і правабярэжжы Нёмана з мэтай пошукаў помнікаў 1-га тысячагоддзя н. э., высвятлення іх суадносін са стараж.-рус. помнікамі 11—13 ст., а таксама з мэтай вызначэння межаў слав. і балцкіх помнікаў і спецыфікі ўсх.-слав. культуры на гэтай тэрыторыі. Яна выявіла і абследавала некалькі дзесяткаў помнікаў і падзяліла іх на 3 храналагічныя групы: паселішчы са штрыхаванай і шурпатай керамікай (3—6 ст. н. э.); паселішчы з ляпной гладкасценнай керамікай (7—9 ст. н. э.) і доўгія і падоўжаныя курганы, што паявіліся ў 6 ст. і бытавалі да 10—11 ст.; паселішчы з ганчарнай керамікай і курганы з пахавальным абрадам трупаспалення і трупапалажэння (10—13 ст.). У 1957—85 Гурэвіч праводзіла планамерныя раскопкі стараж. Навагрудка (у 1957—67 на тэр. вакольнага горада — т. зв. Малым замку, раскапана 2000 м$^2$, у 1968—85 на тэр. дзядзінца — Замкавай гары, раскапана 400 м$^2$). Даследавана некалькі дзесяткаў жылых і гасп. пабудоў, у т. л. дамы багатых жыхароў Навагрудка, вызначаны асн. этапы яго развіцця, устаноўлены стараж.-рус. характар культуры горада, канстатавана наяўнасць высокаразвітага рамяства і гандл. сувязей з Прыбалтыкай, гарадамі Зах. Еўропы і краінамі Бліжняга Усходу. М. К. Каргер даследаваў помнікі стараж.-рус. дойлідства на тэр. Беларусі. У 1962—63 ён вывучаў *Тураўскую царкву* 12 ст., высветліў архіт.-мастацкія і буд.-тэхнічныя асаблівасці храма, што дазволіла даследчыку выказаць думку пра існаванне асобай тураўскай архіт. школы. У 1965 Каргер праводзіў раскопкі *Навагрудскай Барысаглебскай царквы* 12 ст., выявіў чатырохстоўпны трохапсідны стараж.-рус. храм з галерэяй сярэдзіны 2-й пал. 12 ст. У 1961—62, 1964, 1966—67 ён даследаваў храм-пахавальню і храм на дзядзінцы ў Полацку, *Полацкі Сафійскі сабор, Ваўкавыскі храм.* У 1968 праводзіў раскопкі рэштак узарванай у 1961 *Віцебскай царквы Звеставання,* даследаваў ніжнія часткі сцен, якія захаваліся, асн. канструкцыі падмуркаў, стараж. прытворы з паўн. і паўд. бакоў, выявіў фрагменты фрэскавага жывапісу. П. А. Рапапорт вывучаў стараж.-рус. дойлідства (у т. л. абарончае) і буд. тэхніку на тэр. Беларусі. У 1957—63 ён даследаваў абарончыя збудаванні на тэр. стараж. Тураўскай, Пінскай і Полацкай зямель, а таксама ў гарадах Верхняга Панямоння, абследаваў некалькі дзесяткаў гарадзішчаў, зрабіў іх класіфікацыю па тыпах і размяшчэнні на мясцовасці, правёў археал. раскопкі абарончых збудаванняў, у т. л. стараж. Ваўкавыска, Навагрудка, гарадзішча Турэцкая гара каля Слоніма і інш. 1959 Рапапорт даследаваў храм у Ваўкавыску, у 1967—77 — княжацкі палац і цэрквы на Ніжнім замку і на рове ў Полацку, Вял. сабор *Бельчыцкіх храмаў,* царкву Звеставання ў Віцебску і інш. Вал. А. Булкін на чале Полацкага атрада Архіт.-археал. экспедыцыі ў 1975—80 працягваў пачатыя Каргерам даследаванні Полацкага Сафійскага сабора, разам з Рапапортам і Г. М. Штэндарам — цэрквы на Ніжнім замку, храма-пахавальні Полацкага Спаса-Ефрасіннеўскага манастыра, а таксама падмуркі Пятніцкай царквы Бельчыцкіх храмаў. На Верхнім замку Булкін адкрыў рэшткі абарончага вала і рова, насцілы з тоўстых бярвён і брукаваныя маставыя, у в. Экімань — сляды плінфаробчай майстэрні, відаць, аднаго з полацкіх цэнтраў вытворчасці цэглы. М. У. Малеўская працяглы час была начальнікам вял. ўчастка работ у час археал. даследаванняў стараж. Навагрудка. У 1973—74 на чале Архіт. атрада Навагрудскай экспедыцыі працягвала вывучэнне выяўленых у 1968—72 культавых пабудоў на дзядзінцы стараж. горада, у т. л. храма 14 ст. У 1977 даследавала манументальную грамадзянскую пабудову 2-й пал. 14 ст. (гл. *Навагрудскі палац*). Вял. ўвагу аддавала вывучэнню рамяства жыхароў стараж. Навагрудка. К. В. Паўлава некалькі гадоў удзельнічала ў раскопках Навагрудка. У 1963—72 на чале Курганнага атрада Навагрудскай экспедыцыі даследавала могільнікі каля в. Батароўка, Брацянка, *Гарадзілаўка, Мольнічы, Суляцічы, Сялец* і інш. (раскапана каля 80 насыпаў), выявіла 2 храналагічныя групы могільнікаў, што адпавядалі 2 розным патокам славян у раёны Верхняга Панямоння, вызначыла этнічны склад насельніцтва, якому належалі гэтыя могільнікі і якое прыняло непасрэдны ўдзел у фарміраванні бел. народнасці.

*Публ.:* 175, 177, 270, 271, 272, 287, 288, 292. 492, 493, 494, 495, 496, 497, 736, 737, 738, 739, 740, 852, 853, 854, 855, 857, 949, 951, 952, 956, 957, 960, 962.

*К. В. Паўлава.*

**ІНФАРМАТЫКА** ў археалогіі, навука і галіна дзейнасці па стварэнні, перапрацоўцы, назапашванні і выкарыстанні інфармацыі на аснове сучаснай аўтаматызаванай электроннай тэхнікі і спец. тэхналогіі. На Міжнар. кангрэсе (Японія, 1978) да І. аднесена стварэнне і выкарыстанне сістэм апрацоўкі інфармацыі, матэматычнае забеспячэнне, якое надае ёй прыдатную для закладкі ў ЭВМ форму, а таксама распаўсюджанне і распрацоўка інфармацыйных сістэм. Выкарыстанне І. ў археалогіі значна пашырае яе магчыма-

ці, забяспечвае звесткамі пра шматлікія археал. крыніцы, дзякуючы інфармацыйна-пошукавым сістэмам палягчае параўнанні, гарантуе дакладнасць вывадаў, якія атрымліваюць на аснове вывучэння многіх фактараў, дапускае хуткую пераправерку вынікаў даследавання.

*Літ.*: 790, 1017. *У. Ф. Ісаенка.*

**ІНФІЛЬТРАЦЫЯ** (ад лац. in у + +позналац. filtratio працэджванне) у археалогіі, працэс пранікнення элементаў адной археал. культуры ў арэал другой (гл. *Дыфузія культурная*), а таксама працэс непасрэднага пранікнення носьбітаў пэўнай культуры ў інш. культурнае асяроддзе. Прыкладам І. можа служыць пранікненне ў 9—3 ст. да н. э. на поўдзень Беларусі ў арэал *мілаградскай культуры* шматлікіх элементаў суседняй лесастэпавай культуры скіфскага тыпу: прылад працы і зброі, жаночых упрыгожанняў і інш., якія па сваіх якасцях былі лепшымі за мясцовыя. Знаходкі на мілаградскіх помніках гэтага перыяду скіфскіх элементаў арнаменту посуду («жамчужыны», «наляпны валік») тлумачацца інтэнсіўнасцю і трываласцю ўзаемных кантактаў. Непасрэдная І. носьбітаў іншай культуры ў гэты рэгіён добра прасочваецца на раскопках паўд.-бел. помнікаў 2—1 ст. да н. э., калі побач з мілаградскімі паселішчамі тут з'явіліся гарадзішчы і могільнікі *зарубінецкай культуры* і *штрыхаванай керамікі культуры*. *С. Я. Расадзін.*

**ІСАЕНКА** Уладзімір Фёдаравіч (н. 15.12.1928, г. Горкі Магілёўскай вобл.), беларускі археолаг. Канд. гіст. навук (1974). Скончыў Гомельскі педагагічны ін-т (1951). Працаваў настаўнікам, дырэктарам школы, з 1964 у Ін-це гісторыі АН Беларусі, з 1974 ст. навук. супрацоўнік. Вывучае гісторыю першабытнаабшчыннага ладу. Адкрыў на тэр. Палесся больш за 300 помнікаў каменнага і бронзавага вякоў. Даследаваў 14 стаянак. Вывучае днепра-данецкую, нёманскую, свідэрскую і інш. культуры. Адзін з аўтараў «Нарысаў па археалогіі Беларусі» (ч. 1, 1970), «Гісторыі Беларускай ССР» (т. 1, 1972) кнігі «Беларуская археалогія» (1987) і інш.

*Тв.*: Археологическая карта Белоруссии. Вып. 1. Памятники каменного века. Мн., 1968; Археологическая карта Белоруссии. Вып. 3. Памятники бронзового века. Мн., 1976; Неолит Припятского Полесья. Мн., 1976.

**ІСТОПКА**, гл. *Варыўня.*

# К

**КАВАДЛА**, найважнейшы інструмент каваля, апора пры ручным каванні вырабаў. Першапачаткова для гэтага выкарыстоўваўся камень. Вядомы архаічныя тыпы К. у выглядзе бруска груба адкаванага жалеза. У 10—13 ст. К. набыло класічную форму і ўяўляла сабой маналітны брус з адным ці двума працілеглымі рагамі (1- ці 2-раговыя). Знізу ў К. клінападобны шып для мацавання да драўлянай тумбы-калоды. Вага сярэдняга К. 15—20 кг, вялікага — 50—60 кг і болей. У 16 ст. было пашырана спецыялізаванае маленькае К.— шпарак, прызначанае для адкоўкі дробных вырабаў, выгінання і г. д. Яно ўяўляла сабой гранёны жал. стрыжань, ад верхняга канца якога адыходзілі ў працілеглыя бакі два ражкі — круглы і кантаваты, а востры ніжні забівалі ў тумбу. Сярод археал. матэрыялаў К.— рэдкая знаходка.

*Літ.*: 304, 552, 1450. *Г. М. Сагановіч.*



У. Ф. Ісаенка.



А. Дз. Каваленя.

**КАВАЛЕНЯ** Аляксандр Дзмітрыевіч [21.2(5.3).1895, в. Кашніцы Гродзенскага пав.—27.8.1937], беларускі археолаг. Скончыў БДУ (1929). З 1932 навук. супрацоўнік Ін-та гісторыі АН БССР. Даследаваў стаянкі палеаліту *(Бердыж, Юравічы)*, жал. веку *(Банцараўшчына)*, помнікі розных эпох Тураўшчыны. У 1927 вёў раскопкі на гарадзішчы ў *Тураве*, атрымаў першыя матэрыялы, характэрныя для стараж. горада. Вывучаў культуры плямён, якія жылі ў басейне Дняпра, на левабярэжных прытоках Прыпяці і Зах. Дзвіны, збіраў матэрыялы для археал. карты Беларусі. На падставе неабгрунтаваных абвінавачанняў рэпрэсіраваны і расстраляны. Рэабілітаваны ў 1958.

*Тв.*: Археалагічныя разведкі ў Магілёўскай, Бабруйскай і Мінскай акругах // Запіскі аддзела гуманітарных навук БАН. Мн., 1930. Кн. 11. Працы археалагічнай камісіі, т. 2; Матэрыялы з дагісторыі Тураўшчыны (разам з С. С. Шутавым) // Там жа; Археалагічныя росшукі ў вярхоўях рэк Друці, Усяж-Бук і Лукомкі // Працы секцыі археалогіі Ін-та гісторыі БАН. Мн., 1932. Т. 3. *Т. М. Каробушкіна.*

**КАВАЛІ**, селішча 1 — пач. 2-га тысячагоддзя н. э. каля в. Кавалі Слонімскага р-на. За 800 м на ПнУ ад вёскі, на беразе р. Мехаўка (правы прыток р. Іса). Значная частка помніка разбурана ракой. Пл. каля 0,8 га. Адкрыў і абследаваў у 1951 А. Р. Мітрафанаў, у 1955 даследавала 60 м² Ф. Д. Гурэвіч. Культурны пласт таўшч. да 0,4 м. На глыб. 1,1 м — 2 круглыя ў плане пляцоўкі з абпаленай гліны, размешчаныя на адлегласці 1,4 м адна ад адной; на глыб. 0,4—0,8 м — насціл памерам 1,8×1,1 м з абгарэлых плашак шыр. да 0,2 м. Знойдзены ляпная (штрыхаваная і гладкасценная) кераміка 1-й пал. 1-га тысячагоддзя н. э., ганчарная кераміка эпохі Кіеўскай Русі, посуд 13—14 ст., тачыльны брусок, металічныя шлакі, кавалкі глінянай абмазкі і інш.

*Літ.*: 272. *Я. Г. Звяруга.*

**КАВАЛЬСТВА**, ручная апрацоўка чорнага металу і вытворчасць металічных вырабаў гарачым ці халодным каваннем. Найб. стараж. від рамяства, які першым адасобіўся ад сельскай гаспадаркі ў самастойную форму вытворчасці. Гл. ў арт. *Апрацоўка жалеза.*

**КАВАЛЬЦЫ**, стаянка і крэменеапрацоўчая майстэрня фінальнапалеалітычнага часу (11—9-е тысячагоддзі да н. э.) каля в. Кавальцы Гродзенскага р-на.

Стаянка. За 1 км на ПдУ ад вёскі, на валападобным пясчаным краі 18-метровай левабярэжнай тэрасы Нёмана. Даўж. ўздоўж краю тэрасы каля 300 м, шыр. 50—60 м. Выявіў у 1975, даследаваў 24 м² у 1982 М. М. Чарняўскі. Культурны пласт светла-шэрага колеру, таўшч.

да 0,3 м; месцамі перакрыты навеяным пяском.

У раскопе, а таксама на пераараной паверхні, сабрана калекцыя крамянёвых масіўных вырабаў — лістападобныя наканечнікі з падпраўленымі са спінкі рэтушшу тронкамі, тоўстыя канцавыя скрабкі, вял. бакавыя разцы на пласцінах, пласціны і адшчэпы з плоскай рэтушшу і падрэтушоўкай, аднапляцовачныя нуклеусы. Сярод неапрацаваных рэтушшу крамянёў вылучаюцца серыі пласцiністых масіўных адшчэпаў.

Крэменеапрацоўчая майстэрня. За 500 м на Пд ад вёскі, на мысе, утвораным краем тэрасы і правым берагам р. Горніца. Выявіў у 1970 Г. І. Гарэцкі. Памер 100×300 м. На разаранай паверхні знойдзена вял. колькасць расшчэпленага крэменю і масіўных аднапляцовачных нуклеусаў. Невялікая частка крамянёў мае рэтуш. Мяркуючы па матэрыяле, гэта была майстэрня па апрацоўцы крэменю таго ж часу, што і стаянка.

На розных узроўнях тэрас і на высокім поплаве паміж стаянкай і вёскай выяўлена яшчэ некалькі стаянак, якія датуюцца часам ад мезаліту да бронзавага веку.

*М. М. Чарняўскі.*

**КАЖА́Н-ГАРАДО́К,** археал. помнікі *пражскай культуры* каля в. Кажан-Гарадок Лунінецкага р-на.

Паселішча. За 2 км на ПдУ вёскі, ва ўрочышчы Гарбарава Гара. Памеры пляцоўкі цяжка вызначыць, паўразбураны вал захаваўся толькі з паўн.-ўсх. боку. Даследаваў 164 м² у 1981 М. Ф. Гурын. Культурны пласт да 0,7 м.

Выяўлены рэшткі паўзямлянкавага жытла (памеры 4×3,8 м), заглыбленага ў зямлю на 1,3 м, з падпаленымі ніжнімі драўлянымі канструкцыямі. У паўн.-ўсх. куце жытла развал печы з камянёў і кавалкаў балотнай жал. руды. Знойдзены каля тысячы фрагментаў неарнаментаванага ляпнога посуду, сярод іх тры венчыкі з наляпным валікам на шыйцы, упрыгожаным вертыкальна-прамавугольным штампам, невял. пасудзіна-«шклянка» выш. каля 6 см, дыям. венчыка 8 см. Значная частка посуду з дамешкамі буйнай жарствы ў гліне. Сярод знаходак т. зв. «хлябцы», зробленыя з гліны з далейшым абпалам (дыям. 75—82 мм, таўшч. 23—50 мм), 4 біканічныя грузікі-прасліцы (выш. 20—26 мм, дыям. 25—30 мм), 2 з якіх арнаментаваны кропкавымі ўціскannямі. Выяўлены таксама вырабы з жалеза, крэменю.

Датуецца 6—7 ст.

Гарадзішча-1. На ўсх. ускраіне вёскі, справа ад дарогі на в. Лахва, у лесе. Пляцоўка памерам 75×65 м на невял. узвышшы, умацавана валам выш. каля 3,5 м. Абследаваў у 1980 Гурын. Культурны пласт у шурфах 0,3 м.

Гарадзішча-2. За 800 м на У ад вёскі, справа ад дарогі на в. Лахва, у лесе. Пляцоўка памерам 75×55 м умацавана валам выш. каля 3 м. Абследаваў у 1980 Гурын. Культурны пласт у шурфах каля 0,4 м.

*Літ.:* 279а. *М. Ф. Гурын.*

**КАЗАЗА́ЕЎКА,** курганныя могільнікі каля в. Казазаеўка Рэчыцкага р-на.

Могільнік-1. За 2 км ад вёскі. 12 насыпаў. 7 курганоў даследаваў у 1890 У. З. Завітневіч. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў ямах глыб. 0,7 м. Сцены адной ямы абмазаны глінай. У 3 курганах па 2 пахаванні.

Могільнік-2. За 500 м на З ад могільніка-1, над воз. Вышняя Рэчка, ва ўрочышчы Дзівін Луг. Там быў вялізны курган пад назвай Волатава магіла. Не захаваўся.





Гліняныя грузікі і «хлябцы» з гарадзішча-1 **Кажан-Гарадок.**

Могільнік-3. За 3 км ад вёскі, меў назву «Курганнё за Свірыдавым шляхам». 72 насыпы. Завітневіч даследаваў 15 курганоў. У 9 пахавальны абрад — трупаспаленне на гарызонце, у некаторых перапаленыя косці знаходзіліся ў верхняй частцы насыпу.

Знойдзены рэшткі посуду, каменная пацерка. У 2 курганах пахавальны абрад — трупапалажэнне галавой на З і У у ямах глыб. 0,9 м, у 4 курганах — трупапалажэнне галавой на З на гарызонце. Знойдзены пярсцёнкападобнае скроневае кольца, кольца з надзетай на яго пацеркай, гаршчок, жаночае ўпрыгожанне з пацерак (каралі).

*Літ.:* 379. *Г. В. Штыхаў.*

**КАЗІНО́ВА,** археал. помнікі каля в. Казінова Гарадоцкага р-на.

Гарадзішча. За 1 км на З ад вёскі, на мысе, які абмываецца р. Усыса. Памер 40×33 м. Выш. 10—20 м над поймай ракі, з Пд на спадзістым схіле прасочваюцца рэшткі вала, 2 равы глыб. 0,4 м. Даследаваў 56 м² у 1964 К. П. Шут. Культурны пласт 0,3—0,6 м. Знойдзены ўтулкавы наканечнік кап'я, двухшыпавы наканечнік стралы, нож з гарбатай спінкай, гліняныя біканічныя прасліцы, фрагменты посуду з расчосамі, ляпны гладкасценны посуд. У 1975 Г. В. Штыхаў на ўчастку паміж равамі на глыб. 0,5 м выявіў 2 рады апаленых бярвён, перакрытых зверху праслойкай гліны, ніжэй знаходзіўся слой камянёў таўшч. 0,4 м. Шыр. збудавання 3—4 м, яно магло мець адносіны да ўмацавання гарадзішча, яго вала. У 1990 В. М. Ляўко даследавала 46 м² на паўн. краі пляцоўкі. Культурны пласт 1,8 м. Выяўлена шмат камянёў, выкладзеных у 2 ярусы. Магчыма, яны ўмацоўвалі схілы гарадзішча. Знойдзена ляпная кераміка *днепра-дзвінскай культуры*, пасудзіны, арнаментаваныя расчосамі, вырабы з косці.

Селішча. На левым беразе р. Усыса, побач з гарадзішчам, за равамі. Выявіў у 1973 і даследаваў 40 м² у 1975 Штыхаў. Культурны пласт 0,5—0,8 м, добра прасочваецца на пл. 2000 м². Знойдзена ляпная кераміка з расчосамі і слабапрафіляваныя гладкасценныя гаршкі, гліняныя прасліца, жал. шылападобны выраб, косці жывёл. Адносіцца да *банцараўскай культуры.*

*Літ.:* 34, 46, 895, 1368.

*Ю. У. Каласоўскі, Г. В. Штыхаў.*

**КАЗЛО́ЎЦЫ,** могільнік 10—11 ст. паміж вёскамі Казлоўцы і Шніткі Міёрскага р-на. На правым беразе р. Дзісна (Дзісенка). Выявілі ў 1987 П. М. Ціхановіч і В. А. Ермалёнак, даследуюць з 1988 Л. У. Дучыц і Г. М. Семянчук. Значная частка помніка разбурана ў час распрацоўкі кар'ера.

Знойдзены наканечнікі коп'яў, нажы, шырокасярэдзінныя пярсцёнкі, віты бранзалеты з завязанымі канцамі, бранзалеты са стылізаванымі заамарфнымі галоўкамі, бронзавыя скроневыя кольцы, пярсцёнкападобныя сярэбраныя скроневыя кольцы з трыма полымі гранёнымі пацеркамі, падвескі ў выглядзе дырхемаў, грушападобныя званочкі з крыжападобнай прарэззю, шыйныя грыўні, шкляныя пацеркі і інш.

Пахавальныя абрады — трупаспаленне і трупапалажэнне. Рытуальныя ямы памерам 1—3 м, глыб. 0,7—1,8 м, запоўненыя вугалем, перамяшаным з зямлёй. У 7 магілах (3 жаночыя, 2 мужчынскія, 2 дзіцячыя) нябожчыкі размешчаны галавой на З(3), У(1), ПнУ(1). Мужчынскія пахаванні без інвентару, толькі ў адным быў нож. У жаночых пахаваннях знойдзены сярэбраныя і медныя бранза-



Бранзалетападобныя скроневыя кольцы, шырокасярэдзінныя пярсцёнкі, бразготкі з крыжападобнай прораззю, шкляныя пацеркі, грыўня, бранзалеты з завязанымі канцамі з могільніка **Казлоўцы**.



Манеты з **Казьянкаўскага манетнага скарбу.**

летападобныя скроневыя кольцы, каралі са шкляных пацерак і грушападобных званочкаў з насечкамі і крыжападобнай прораззю, жоўты і блакітны бісер, жалезная грыўня, вітыя з завязанымі канцамі са стылізаванымі зааморфнымі галоўкамі бранзалеты, шырокасярэдзінныя пярсцёнкі, нажы, ляпныя і ганчарныя гаршкі.

*Л. У. Дучыц, Г. М. Семянчук.*

**КАЗЬЯ́НКАЎСКІ МАНЕ́ТНЫ СКАРБ.** Знойдзены ў в. Казьянкі Полацкага р-на ў 1973. У бяросце было 7588 куфіцкіх дырхемаў Арабскага халіфата агульнай масай каля 20 кг: пераважна манеты эміраў Саманідаў (манетныя двары Андэраба, Балх, Самарканд, аш-Шаш і інш.), а таксама манеты халіфаў Абасідаў (манетныя двары Бердаа, Васіт, Нісабур і інш.), эміраў Сафарыдаў (манетны двор Фарыс), волжскай Балгарыі (манетны двор Булгар), шмат *манет-перайманняў* эмісіям Абасідаў і Саманідаў. Ухаваны ў 940-я г.

*Літ.:* 1576.

**КАЗЯРО́ЖСКІЯ РЭ́ЧАВЫЯ СКА́РБЫ,** скарбы шыйных грыўняў, знойдзеныя каля п. Козі Рог Буда-Кашалёўскага р-на. Выраблены ў



Шыйныя грыўні з **Казярожскіх рэчавых скарбаў.**

стараж.-рус. гарадской ювелірнай майстэрні.

1) Знойдзены ў 1960-я г. Збераглася адна вітая грыўня (маса 236,4 г), зробленая з трох падвоеных жгутоў білоннага дроту, перавітых трыма суканымі ніткамі. Канцы пласціністыя, замкі не збераглiся.

2) Знойдзены ў 1980 7 вітых грыўняў, 6 з якіх выраблены аналагічна грыўні з першага скарбу (маса 200,3, 236,4, 288,5, 297, 299,4, 341,5 г), 1 — з пяці падвоеных жгутоў білоннага дроту, перавітых 2 суканымі ніткамі, а ўвесь выраб — яшчэ пяццю ніткамі (маса 323 г). У грыўняў пласціністыя канцы ў выглядзе спіральных петляў і 2 кручкоў, якія арнаментаваны адбіткам пуансона, прамымі, ламанымі лініямі і дробнымі ромбікамі, лініямі і дробнымі трохвугольнікамі, лініямі і адбіткамі дробназубчастага штампа, ламанай лініяй, дробнымі ромбікамі і крыжападобнай фігурай. Зберагаюцца ў Гомельскім абл. краязнаўчым музеі. Ухаваны ў канцы 11 — пач. 13 ст.

*Літ.:* 687. *А. А. Макушнікаў.*

**КАКО́РЫЦА,** стаянкі каля в. Какорыца Драгічынскага р-на. Выявіў і даследаваў у 1963, 1968 і 1985 У. Ф. Ісаенка.

С т а я н к а-1 *нёманскай культуры* (3-е тысячагоддзе да н. э.). Разме-

шчана за 2 км на Пн ад вёскі, на паўд. беразе воз. Спораўскае, на тэрасе выш. 2 м над узроўнем вады. Даўж. каля 200 м. Культурны пласт 0,4 м. Выяўлена некалькі соцень апрацаваных крамянёў, у т. л. 70 прылад працы, рэшткі агнішчаў.

Стаянка-2 ранняга перыяду нёманскай культуры (4-е тысячагоддзе да н. э.). Размешчана на Пд ад вытоку р. Ясельда з воз. Спораўскае, на пагорку выш. 3—4 м. Даўж. 120 м. Знойдзены крамянёвыя прылады



Скроневыя кольцы з курганнага могільніка **Каласы.**

працы, абломкі глінянага ляпнога посуду, рэшткі агнішчаў.

*Літ.:* 460. *У. Ф. Ісаенка.*

**КАЛАГЕ́НАВЫ МЕ́ТАД,** адзін з метадаў абсалютнай геахраналогіі, які заключаецца ў вызначэнні абсалютнага ўзросту касцей выкапнёвых жывёл па ўтрыманні ў іх калагену (фібрылярнага бялку групы склерапратэінаў), выкарыстоўваецца ў геалогіі і археалогіі. К. м., або метад пракальвання, заснаваны на вызначэнні суадносін немінеральнай (калаген, вада, двухвокіс вугляроду) і мінеральнай (арганічнай і неарганічнай) частак касцей. Пры гэтым узрост выкапнёвых рэштак залежыць ад колькасці арганічных кампанентаў косці, гал. чынам, калагену, які з цягам часу разбураецца. К. м. выкарыстоўваецца і на Беларусі. Так П. Ф. Каліноўскі даследаваў больш за 70 касцявых рэштак з розных месцаў на тэр. Беларусі, у т. л. са стаянкі *Бердыж*, Смаргоні і інш., пацвердзіў прыдатнасць К. м. для вызначэння адноснага геалагічнага ўзросту і пэўную адпаведнасць вынікаў, атрыманых, напрыклад, метадам 14 С (гл. *Радыевугляродны метад геахраналогіі).*

*Літ.:* 481, 885. *А. Г. Калечыц.*

**КАЛАСЫ,** курганны могільнік дрыгавічоў 11—12 ст. каля в. Каласы Рагачоўскага р-на. За 1 км на ПнЗ ад вёскі, на правым беразе р. Друць. 85 насыпаў дыям. 5—12 м, выш. 0,5—3,5 м. Адкрылі і даследавалі ў 1892 М. В. Фурсаў і С. Ю. Чалоўскі, у 1929 даследаваў А. Дз. Каваленя. У 4 курганах пахавальны абрад — трупапалажэнне (2 шкілеты арыентаваны галавой на ПнУ, адзін — на З, адзін — на У). Пахавальны інвентар: ганчарны посуд, сярэбраныя і медныя драцяныя бранзалеты, сердалікавая пацерка, сярэбраны пярсцёнак і інш. У 1982 А. М. Плавінскі і В. Н. Рабцэвіч раскапалі 14 насыпаў: у 13 пахавальны абрад трупапалажэнне, у 9 з

Мужчынскія пахаванні і пахаванні ў ямах інвентару не мелі, у жаночых знойдзены разнастайныя рэчы: сярэбраныя пярсцёнкападобныя і зярнёныя трохпацеркавыя скроневыя кольцы, шыракарогія лунніцы, вітыя і плоскія пярсцёнкі, бронзавая трохдротавая шыйная грыўня, фібулы, разнастайныя пацеркі (сярэбраныя зярнёныя «драгавіцкія», сердалікавыя біпірамідальныя і шарападобныя, бурштынавыя, шкляныя бочкападобныя пазалочаныя і пасярэбраныя, бісер) і інш. У 7 курганах знойдзены рэшткі ганчарнага посуду (5 гаршкоў удалося аднавіць). Пад насыпам аднаго з курганоў знойдзена пахаванне 6—7 ст. па абраду трупаспалення. Рэшткі крэмацыі былі змешчаны ў невял. ляпным гаршку цюльпанапа-



Упрыгожанні з курганнага могільніка **Каласы.**

іх на гарызонце на попельным пласце, у 4 у ямах, у 1 пахаванне не знойдзена. 11 нябожчыкаў арыентаваны галавой на З з невял. адхіленнямі, 4 — галавой на У. Нябожчыкі ляжалі на спіне, рукі выцягнуты ўздоўж цела (8 выпадкаў) або складзены на поясе (1 выпадак) і на грудзях (2 выпадкі). У 5 курганах пахаваны мужчыны, у 4 — жанчыны, у 3 — парныя пахаванні (двойчы мужчына і жанчына, адзін раз — жанчына і дзяўчынка), у насыпах нябожчыкі былі абкладзены плахамі. У курганах добра прасочваліся рэшткі кругавых ачышчальных вогнішчаў.

добнай формы і накрыты перавёрнутай ляпной слоікападобнай пасудзінай. Напэўна, гэтае пахаванне належала папярэднікам дрыгавічоў.

*Літ.:* 470, 888.

*А. Р. Мітрафанаў, А. М. Плавінскі.*

**КАЛЕКЦЫЯНІ́РАВАННЕ** (ад лац. collectio збор), мэтанакіраванае збіральніцтва пераважна аднародных прадметаў, якія маюць навук., гіст. або мастацкую каштоўнасць.

Прадметам К. могуць быць помнікі матэрыяльнай і духоўнай культуры (рукапісы, кнігі, гіст. і мемарыяльныя дакументы, манеты, творы выяўленчага і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, паштовыя маркі і інш.), аб'екты прыроды (мінералы, расліны і інш.). Часта

калекцыі становяцца базай для стварэння музеяў, архіваў, мастацкіх галерэй, бібліятэк. К. спрыяла развіццю нумізматыкі, геральдыкі, сфрагістыкі, археалогіі, этнаграфіі і інш. Існуюць масавыя віды К.: філатэлія, *банiстыка*, фалерыстыка (К. ордэнаў, медалёў, значкоў), філуменія (К. запалкавых этыкетак), філафанія (К. мастацкіх, дакументальных і інш. гуказапісаў — на грампласцінках, магнітных стужках), філакартыя (К. ілюстраваных паштовак), нумізматыка і інш. Развіццю масавага аматарскага К. спрыяе масавы выпуск аб'ектаў К. (марак, паштовак, значкоў, этыкетак, пласцінак і інш.), арганізацыя спец. магазінаў, выданне кніг і часопісаў па пытаннях К.

Першыя адзнакі К. на Беларусі выяўлены ў Мінску пры археал. раскопках у пластах 12 ст. Пазней таксама мела выпадковы характар. У 16 ст. М. Радзівіл (1515—65) пасля наведання Італіі стаў займацца К., заснаваў нумізматычны кабінет, або скарбец. Яго пераемнік М. Радзівіл (Сіротка) (1549—1616) істотна папоўніў калекцыю, далучыўшы да яе творы мастацтва і архіў; кожная нумізматычная адзінка мела сваю анатацыю і класіфікацыю паводле дзярж. прыналежнасці і сваё месца ў шкатулцы. Акрамя Нясвіжа, дзе знаходзілася калекцыя гармат («збраёўня»), былі яшчэ зборы ў рэзідэнцыях Радзівілаў у Міры, Алыцы, Клецку, Давыд-Гарадку. У 16 ст. калекцыі прадметаў музейнага значэння пачалі збіраць Сапегі. У Ружанах (Пружанскі р-н) існаваў т. зв. «Сапежынскі збор», у якім меліся архіў пісьмовых крыніц, бібліятэка, творы мастацтва, пазней паявіліся рыцарскія даспехі, паляўнічая амуніцыя, археал. знаходкі, манеты; з 18 ст. вялася работа па стварэнні палацавай калекцыі рэдкіх кніг, дакументаў, манускрыптаў, геаграфічных, атрыбутыўных гравюрных карт, схем старадаўніх гарадоў, абарончa-замкавых збудаванняў. У 18 ст. буйныя калекцыі І. Храптовіча існавалі ў Шчорсах Навагрудскага р-на. Яго бібліятэчным фондам дазвалялася карыстацца ўсім, хто выконваў распрацаваны Храптовічам статут. У канцы 18 ст. А. Тызенгаўз адкрыў у Гродне «кабінет натуральнай гісторыі» — музей з 10 тыс. экспанатаў акамянеласцей і мінералаў. Яго пляменнік К. Тызенгаўз у 1-й палове 19 ст. заснаваў у Паставах адзін з першых на Беларусі арніталагічных музеяў, пазней — мастацкую галерэю. Пасля далучэння Беларусі да Расійскай імперыі першым рус. мецэнатам, стваральнікам калекцый стаў М. П. Румянцаў (1754—1825), які арганізаваў гурток гісторыкаў і археографаў у Гомелі, асабіста рыхтаваў экспедыцыі па збіранні старажытнасцей. У справе К. вызначыліся такія вучоныя і краязнаўцы, як І. І. Грыгаровіч, З. Даленга-Хадакоўскі, Я. Ф. Канкрын, І. Шулякевіч, А. М. Дарашэвіч і інш. У Гомельскім палацы былі сабраны рэліквіі гісторыі і мастацтва, што пазней сталі асновай Румянцаўскага музея, якія былі вывезены ў Пецярбург, а пазней вял. колькасць матэрыялаў трапіла ў Маскву і стала асновай Гіст. музея і Дзярж. бібліятэкі імя Леніна. У Румянцаўскім музеі былі калекцыі рукапісаў, шэдэўры жывапісу і скульптуры, творы антычнасці. Новы ўладальнік Гомеля І. Ф. Паскевіч прыбудаваў да палаца вежу і там размясціў музей з бібліятэкай, у якім былі творы мастацтва, рукапісы, антыкварыят з нефрыту, фарфору, хрусталю, маёлікі, бронзы, серабра і золата. У Сямяцічах (цяпер Польшча) існавала багатая калекцыя этнографа і краязнаўцы, дачкі генерала К. Сапегі, Г. К. Ябланоўскай (1728—1800). Яна ўключала медалі, этнаграфічныя матэрыялы, вырабы з косці, унікальную бібліятэку, а таксама «кабінет натуральнай гісторыі». У музеі пры Полацкай езуіцкай калегіі экспанаваўся пад'ёмны археал. матэрыял. У 1830 музейныя каштоўнасці з Полацка, у т. л. мазаічныя карціны, прадметы антыкварыяту, унікальны сонечны гадзіннік (ён і цяпер экспануецца ў Ленінградзе), былі адпраўлены ў Маскву, Пецярбург, Вільню. Рэдкая археал. калекцыя з раскопак помнікаў Падзвіння захоўвалася ў палацы А. Плятэра ў Краслаўцы (цяпер Латвія). Пазней частка калекцыі ахвяравана *Віленскаму музею старажытнасцей*, астатняе згарэла ў час паўстання 1863—64 на Беларусі і ў Літве. У гэты час хатняе К. становіцца модай. Зборы антыкварыяту існавалі ў вёсках Паланэчка (Баранавіцкі р-н), Дабраўляны (Смаргонскі р-н), Беніца і Гарадзілава (Маладзечанскі р-н), Мсціжы (Лагойскі р-н), Вішнева (Валожынскі р-н), Смілавічы (Чэрвеньскі р-н), Косіна (Ваўкавыскі р-н), у Жлобіне, Магілёве, Мінску і інш. Багатыя археал. калекцыі былі ў музеі Тышкевічаў у Лагойску (гл. *Лагойскі музей старажытнасцей*), у маёнтку Шо (Глыбоцкі р-н), што належаў мецэнату І. Жабе. У Мінску археал. знаходкі былі ў калекцыях Л. Неслухоўскага (бацька паэта Я. Лучыны), Ю. Кабылінскага, М. Гаўсмана і інш., у маёнтку Замосце (Пухавіцкі р-н), уладальнікам якога быў А. Ельскі, у маёнтку Э. Гутэн-Чапскага ў Станькаве (Дзяржынскі р-н). Значнае месца археал. матэрыялы займалі ў царкоўных і царкоўна-археал. музеях у Віцебску, Гродне, Магілёве, Мінску, Вільні і інш. У савецкі час у выніку К. ў многіх гарадах узніклі музеі, якія сталі цэнтрамі навуковай і збіральніцкай дзейнасці. У ліку найб. значных калекцыянераў пасляваеннага часу В. Н. Рабцэвіч (манеты, калекцыя стала асновай Нумізматычнага кабінета БДУ), А. Я. Процкі (мемарыяльныя медалі), Я. М. Сахута, А. А. Марачкін (творы нар. дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва), М. Ф. Раманюк (бел. народнае адзенне, ткацтва), М. І. Мінкевіч (экслібрысы), А. Я. Белы (мемарыяльныя медалі) і інш. Прыватнае К. часам прымае агідныя формы, калі помнікі матэрыяльнай і духоўнай культуры народа становяцца аб'ектам куплі-продажу.

*Літ.*: 513, 514а. *Г. А. Каханоўскі.*



А. Г. Калечыц.

**КАЛЕ́ЧЫЦ** Алена Генадзеўна (н. 12.3.1940, г. Нальчык), беларускі археолаг. Канд. геаграфічных навук (1972). Скончыла БДУ (1964). З 1971 у Ін-це гісторыі АН Беларусі, з 1974 старшы навуковы супрацоўнік. Даследуе пытанні палеагеаграфіі, экалогіі плямён каменнага веку. Асноўныя даследаванні праводзіла ў басейнах Сажа і Ясельды.

*Тв.*: Первоначальное заселение территории Белоруссии. Мн., 1984; Памятники каменного и бронзового веков Восточной Белоруссии. Мн., 1987; Белорусская археология: Достижения археологов за годы Сов. власти. Мн., 1987 (у сааўт.).

**КАЛІ́НАЎКА**, група археал. помнікаў каля пас. Калінаўка Гомельскага р-на.

С е л і ш ч а *калочынскай культуры* і сярэднявечча. За 300 м на ПнУ ад пасёлка, на надпоймавай тэрасе правага берага р. Уза. Пашкоджана кар'ерам. Выявіў у 1979 А. І. Драбушэўскі, абследаваў у 1981 А. А. Макушнікаў. Культурны пласт 0,1—0,3 м, утрымлівае матэрыялы жал. веку і 11—13 ст. Выяўлены рэшткі жытла 5—7 ст., заглыбленага ў мацярык, абпаленыя камяні, кавалкі грубаляпнога неарнаментаванага посуду, гліняныя праслiцы.

Курганны могільнік радзімічаў 11—12 ст. За 500 м на У ад пасёлка, ва ўрочышчы Сіянск (Асіянск), побач з урочышчам Латышы. Вядомы з 1873. У канцы 19 ст. скарбашукальніцкія раскопкі праводзіў мясц. памешчык Грэшнер, які знайшоў каля касцякоў «пярсцёнкі і медныя прадметы». У пач. 20 ст. абследаваў Е. Р. Раманаў. Захавалася 25 курганоў выш. 0,5—2,5 м, дыям. 4—16 м. У 1975 У. У. Багамольнікаў раскапаў 7 насыпаў. У 4 курганах пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце галавой на З, у 1 — на У. 2 курганы кенатафы. Рэчы былі толькі ў 2 курганах: у адным знойдзена бронзавае паясное кольца, у другім — 2 бронзавыя пацеркі (цыліндрычная малінападобная і эліпсоідная з імітацыяй зерні). У канцы 1970-х г. рэшткі могільніка знішчаны.

*Літ.*: 143, 324, 732, 981.

*У. У. Багамольнікаў, А. А. Макушнікаў.*

**КАЛІ́НІНА,** паселішча *верхнеднятроўскай культуры, сярэднеднятроўскай культуры, сосніцкай культуры* і ранняга жал. веку каля пас. Калініна Гомельскага р-на. За 300 м на ПдУ ад пасёлка, на вял. пясчаным астанцы сярод поймы правага берага р. Сож, ва ўрочышчы Чурылава. Выявіла і абследавала ў 1975 А. Г. Калечыц. Частка помніка разбурана кар'ерам. Культурны пласт 0,1—0,2 м. Знойдзена больш за 100 скрабкоў, сякеры, цёслы, разцы, вастрыі, праколкі, свярдзёлкі, скоблі, наканечнікі стрэл і коп'яў, рэтушоры, адшчэпы, пласціны, нуклеусы, запасы сыравіны, адходы крамянёвай вытворчасці і інш.

*А. Г. Калечыц.*

**КАЛІ́НКАВІЦКІ МАНЕ́ТНЫ СКАРБ.** Знойдзены ў г. Калінкавічы ў 1961. У тканіне загорнута каля 2,5 тыс. манет: пераважна медныя соліды Каралеўства Польскага і ВКЛ 1660—61, 1663—66, у т. л. *паўтаракі* Рэчы Паспалітай і герцагства Прусія 1620-х г., падробкі пераважна медных солідаў. Уханы ў 2-й пал. 17 — 1-й пал. 18 ст. Зберагаецца скарб у *Мазырскім краязнаўчым музеі.*

**КАЛО́ДЗЕЦКАЯ,** курганны могільнік 11 ст. каля в. Калодзецкая Касцюковіцкага р-на. За 1,5 км на У ад вёскі, на левым беразе р. Дзяражня. Першапачаткова было 13 насыпаў (8 разбурана) выш. 1—2 м, дыям. 5—12 м. Адкрыў і даследаваў 1 курган у 1973 Я. Р. Рыер. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў насыпе на попельным пласце, вышэй пахавання пласт вогнішча-трызны, касцяк пашкоджаны.

У разбураных курганах знойдзены шыферпае праслица, шкляныя пацеркі, бронзавыя і білонныя сяміпрамянёвыя і бранзалетападобныя скроневыя кольцы, бранзалеты, пярсцёнкі, шыйныя грыўні, падвескі ў выглядзе званочкаў і крыжыкаў і інш. Бронзавая літая фігурка з выявай прывязанага да каня чалавека належыць да скандынаўскіх старажытнасцей. Знаходкі тыповыя для радзімічаў.

*Літ.*: 967. *Я. Р. Рыер.*



**Шыйныя грыўні (1, 2), скроневыя кольцы (3—4), званочкі (5—8), крыжыкі (9—10), падвескі (11—13), лунніца (14), шыферныя праслiцы (15—16), скроневае кольца (17), фібулы-спражкі (18—20), бранзалеты (21—25) з курганнага могільніка Калодзецкая.**

**КАЛО́ЧЫН,** група археал. помнікаў каля в. Калочын Рэчыцкага р-на.

Гарадзішча-1 *калочынскай культуры.* За 500 м на Пн ад вёскі, на мысе правага берага Дняпра. Пляцоўка памерам 42×36 м умацавана 2 падкованападобнымі валамі: унутраны выш. 3,5 м і знешні выш. 1,1 м. Даследавалі ў 1951 Ю. У. Кухарэнка, у 1955 В. М. Мельнікоўская, у 1955—60 Э. А. Сымановіч. Раскапана 1332 м².

Выяўлены рэшткі масіўнай драўлянай агароджы, якая акаймоўвала пляцоўку па перыметры. Да яе прымыкалі драўляныя пабудовы. Знойдзены фрагменты біканічных гаршкоў з валікам, гліняных

пасудзін з рэшткамі абгарэлага проса і сачавіцы, жал. сярпы, нажы, шылы, долата, гліняныя прасліцы, каменная зерняцёрка, бронзавыя і касцяныя вырабы. Трапляюцца і больш раннія матэрыялы мілаградскай і зарубінецкай культур. З'яўлялася гарадзішчам-сховішчам на выпадак ваеннай небяспекі.

Гарадзішча-2 *мілаградскай культуры.* За 500 м на Пд ад вёскі, на мысе правага берага Дняпра, ва ўрочышчы Гарадок. Пляцоўка прамавугольная, памерам 50×25 м, умацавана з боку поля 2 валамі: унутраны выш. каля 3 м, шыр. у аснове 12 м і знешні выш. каля 2 м і шыр. 10 м. Роў паміж імі шыр. 3—3,5 м, глыб. 1 м. Агульная пл. гарадзішча каля 4 тыс. м². Адкрылі ў 1951 Кухарэнка і Мельнікоўская, даследавала ў 1955 і 1961 Мельнікоўская, абследаваў у 1964 Л. Д. Побаль. Раскапана 72 м². Культурны пласт 0,2—0,4 м.

Выяўлены вял. колькасць камянёў, рэшткі ляпнога гліНянага посуду, асобныя фрагменты якога пакрыты штрыхамі, гліНянае прасліца біканічнай формы, бронзавы наканечнік стралы скіфскага тыпу, пасахападобная шпілька і інш.

Селішча калочынскай культуры. Побач з гарадзішчам-1. Пл. каля 1 га. Даследаваў у 1955—60 Сымановіч, абследавалі ў 1955 Мельнікоўская, у 1964 Побаль. Выяўлены 2 паўзямлянкавыя жытлы. Адно з іх прамавугольнай формы памерам 3,8×3,8 м, заглыбленае ў зямлю на 0,35 м. У цэнтры быў апорны слуп, які падтрымліваў перакрыцце. У сярэдняй частцы жытла размяшчалася адкрытае агнішча. Пабудова мела слупавую канструкцыю сцен. Знойдзены фрагменты керамікі 3-й чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э.

*Літ.*: 772, 904, 1052, 1143.

*М. І. Лашанкоў, Г. В. Штыхаў.*

**КАЛО́ЧЫНСКАЯ КУЛЬТУ́РА,** археал. культура плямён, якія ў 3-й чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. насялялі большую частку басейнаў Дзясны, Сейма, вярхоўяў Сулы і Псла, Гомельскае і Магілёўскае Падняпроўе (да наваколля Быхава), ніжняе цячэнне Бярэзіны, левабярэжжа Прыпяці ад вусця Пцічы да зліцця з Дняпром. Назва ад гарадзішча і селішча каля в. Калочын Рэчыцкага р-на. Насельніцтва займалася земляробствам, жывёлагадоўляй, паляваннем, хатнімі промысламі. Асн. тыпам паселішчаў былі неўмацаваныя селішчы; нешматлікія гарадзішчы служылі сховішчамі на выпадак ваеннай небяспекі або, верагодна, з'яўляліся свяцілішчамі (Калочын). Жытлы — аднакамерныя чатырохвугольныя ў плане паўзямлянкі са зрубнай або слупавой канструкцыяй сцен, часта з цэнтр. апорным слупом. Характэрны адкрытыя агнішчы, трапляюцца печы-каменкі (*Тайманава,* Гомель, *Шчаткава, Нісімкавічы).* Пахавальны абрад — трупаспаленне за межамі пахаванняў на бескурганных (Тайманава, *Новы Быхаў)* і курганных *(Варонiна)* могільніках, пахаванні урнавыя і ямныя. Насельніцтва выраблялa гліняныя ляпныя гаршкі пераважна слоікакруглабатабокіх, цюльпанападобных, рабрыстых форм, а таксама карчагі, міскі, патэльні, дыскі, жал. нажы, шылы, сякеры, долаты, косы, сярпы, наканечнікі коп'яў і стрэл, гліняныя прасліцы, каменныя асялкі, зерняцёркі і інш., бронзавыя бранзалеты



Л. У. Калядзінскі.

з расшыранымі канцамі, паясныя наборы анцкага тыпу, падвескі, пальцавыя фібулы, шкляныя пацеркі і інш. Храналагічныя рамкі К. к. вызначаюць у інтэрвале канца 4—9 ст., найбольш абгрунтаваная дата 5—7 ст., позняя мяжа асобных помнікаў — 8 ст. Этнічная прыналежнасць культуры спрэчная: некаторыя адносяць яе да балтаў (В. В. Сядоў, І. П. Русанава, А. Р. Мітрафанаў. В. Б. Перхаўка), іншыя — да славян (П. М. Траццякоў, Э. А. Сымановіч, Л. Д. Побаль, Я. А. Гаруноў). Па сваім паходжанні К. к. генетычна звязана з мясц. помнікамі *кіеўскай культуры* (паводле Побаля, позняга этапу *зарубінецкай культуры)* 2—5 ст. Магчыма, носьбіты К. к. ўдзельнічалі ў фарміраванні ўсх.-слав. племянных саюзаў радзімічаў і севяран.

*Літ.*: 252, 785, 898, 995, 1052, 1143, 1211.

*А. А. Макушнікаў.*

**КАЛЧА́Н,** футарал для нашэння стрэл, зроблены з дрэва ці лубу і абцягнуты скурай. Насілі яго звычайна на рамні, які мацавалі з дапамогай касцяных петляў. Каб К. на поясе вісеў з нахілам, зручным для даставання стрэл, адтуліны петляў рабілі падоўжанымі і размяшчалі коса. Касцяныя петлі 12—13 ст. знойдзены ў Мінску (3 экземпляры) і Ваўкавыску (3 экземпляры). Часта К. упрыгожвалі касцянымі накладкамі. Такія накладкі знойдзены пры раскопках Мсціслава, Ваўкавыска, Мінска, Турава, Друцка, Лукомля. Іх паверхня ўпрыгожана разьбой у выглядзе ромбікаў, хвалістых ліній, зігзагаў, спіралі, крыжыкаў, выяў жывёл. На пласцінах, выробленых бел. майстрамі, складана пераплятаюцца качэўніцкія і славяна-раманскія арнаментальныя матывы і рысы, уласцівыя мастацтву качэўнікаў Еўразійскіх стэпаў, што сведчыць пра іх культ. ўзаемасувязі ў часы феад. раздробленасці.

*Літ.*: 50, 742.

*Г. В. Штыхаў.*

**КАЛЬЧУ́ГА,** засцерагальны даспех воіна з металічных круглых працягнутых кольцаў, прадзетых адно ў адно і скляпаных на цвік. Мела выгляд кашулі з доўгімі ці кароткімі рукавамі, часам была злучана з рукавіцамі, каптуром (яго маглі замяняць *шлем* і *місюрка*), нагавіцамі ці баявымі панчохамі. Адносная лёгкасць (5—7 кг) і гнуткасць К. не скоўвалі рухаў воіна. К. ўзнікла ў 1-м тысячагоддзі да н. э. ў краінах Стараж. Усходу (Асірыя). На тэр. Беларусі з'явілася ў 10 ст. Цэлая К. эпохі Кіеўскай Русі знойдзена на Аршанскім гарадзішчы (захоўваецца ў Дзярж. Гіст. музеі, г. Масква). На многіх кольцах гэтай К. выгравіраваны стараж. літары. Абрыўкі кальчужнага палатна 12—13 ст. знойдзены пры археал. раскопках Слуцка, Гродна, Бярэсця, Навагрудка, Полацка. З канца 12 ст. К. суіснавала з *панцырам.* Са з'яўленнем агнястрэльнай зброі кальчужныя кашулі для трываласці сталі рабіць з двайным пляценнем. Такая К. важыла 12—16 кг і больш. Некалькі такіх К. 17 ст. зберагаюцца ў *Віцебскім абласным краязнаўчым музеі.* На Беларусі К. выкарыстоўвалі да сярэдзіны 18 ст. коннікі-«панцэрныя».

*Літ.*: 702.

*М. А. Ткачоў.*

**КАЛЯДЗІ́НСКІ** Леанід Уладзіміравіч (н. 17.2.1952, Мінск), беларускі археолаг. Канд. гістар. н. (1991). Скончыў БДУ (1977). З 1974 працуе ў Ін-це гісторыі АН Беларусі, адначасова ў 1985—86 выкладаў у Мінскім пед. ін-це. Удзельнічаў у раскопках селішча *Тайманава,* дзядзінца стараж. Бярэсця. Абследаваў для «Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі» Віцебскі, Карэліцкі, Чавускі і Уздзенскі р-ны (1977—82). Даследаваў Верхні замак Віцебска (у 1977—79 разам з М. А. Ткачовым), дзядзінец і пасад Слуцка.

*Тв.*: Итоги археологического изучения Витебска в 1976—1980 гг. (разам з М. А. Ткачовым) // Древнерусское государство и славяне. Мн., 1983; Постройки древнего Витебска. XII—XVII вв. (разам з М. А. Ткачовым) // Древнерусский город. Киев, 1984; Средневековый Витебск (разам з М. А. Ткачовым, Т. С. Бубенька) // Труды V Между-

нар. конгресса славянской археологии. М., 1987. Т. 3, вып. 16.*М. А. Ткачоў.*

**КАМАРО́ВІЧЫ,** курганны могільнік дрыгавічоў (11—13 ст.) каля в. Камаровічы Петрыкаўскага р-на. У 19 ст. налічваў 57 насыпаў. Размешчаны за 4 км на Пн ад вёскі, ва ўрочышчы Дзягельскі лес (цяпер Кашара), недалёка ад правага берага р. Арэса. Даследаваў 25 курганоў у 1889 У. З. Завітневіч. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце (22 курганы) і ў падкурганных ямах (3) галавой на З. Знойдзены рэчы: шкляныя, металічныя і сердалікавыя пацеркі, пярсцёнкі, шыферныя прасліцы, скроневыя кольцы і інш. Цяпер захавалася 5 насыпаў (прывязаны да в. Фаставічы).

*Літ.*: 380. *А. В. Іоў.*

**КАМАРО́ЎСКАЯ КУЛЬТУ́РА,** археал. культура сярэдзіны бронзавага веку (15—12 ст. да н. э.) плямён, што жылі на тэр. Зах. Украіны, у вярхоўях Днястра, Паўд. Буга, Стыра, Гарыні. Назву атрымала ад могільніка каля с. Камарова Івана-Франкоўскай вобл. Насельніцтва займалася земляробствам і жывёлагадоўляй, жыло на селішчах у зямлянках і паўзямлянках, карысталася крамянёвымі прыладамі працы і зброяй, керамічным посудам, бронзавымі і залатымі ўпрыгожаннямі. Нябожчыкаў хавалі ў каменных скрынях або спальвалі. Пахаванні ў групавых магілах, часам у курганах. К. к. склалася на аснове адной з груп *шнуравой керамікі культур*, блізкая да *тшцінецкай культуры* і *сосніцкай культуры.* На думку многіх даследчыкаў, у тшцінецка-камароўскай этнакультурнай вобласці (тэр. Польшчы, Пд Беларусі і Пн Украіны да Прыкарпацця) адбывалася фарміраванне продкаў славян.

*Літ.*: 815. *У. Ф. Ісаенка.*

**КА́МЕНА,** археал. помнікі каля в. Камена Вілейскага р-на.

Курганны могільнік-1. За 2,5 км на У ад вёскі, на правым беразе р. Вілія, справа ад дарогі на в. Пагост. Захавалася 47 насыпаў дыям. 6—14 м, выш. 0,7—2,3 м (пераважаюць дыям. 8—10 м і выш. 1—1,5 м). Каля большасці курганоў кругавыя раўкі. Значная частка насыпаў пашкоджана больш познімі пахаваннямі. У 1974 Я. Г. Звяруга раскапаў 4 курганы, у 2 выяўлены пахаванні па абраду трупаспалення на гарызонце, у 2 — трупапалажэння на падсыпцы. Пахавальны інвентар: ганчарныя гаршкі без арнаменту, жал. наканечнік кап'я з масіўнай утулкай і пяром прадаўгавата-яйцападобнай формы. Датуецца 10—11 ст.

Курганны могільнік-2. На паўн.-зах. ускраіне вёскі, справа ад дарогі на в. Сцешыцы. 70 насыпаў дыям. 3,5—6 м, выш. 0,4—1 м. Раўкі вакол насыпаў адсутнічаюць. Месцамі на схілах ляжаць камяні. У 1974 Звяруга раскапаў 6 курганоў. Ва ўсіх нябожчыкі ляжалі ў ямах глыб. 0,4—0,8 м, у выцягнутым стане, на спіне, галавой на З (у 2 выпадках з невял. адхіленнем). У 4 пахаваннях выяўлены рэшткі дамавін або дашчаных абкладак. Каля касцякоў і над імі (пераважна каля галавы і ног) ляжалі вял. камяні. У 2 выпадках яны перакрывалі магільныя ямы над галавамі і нагамі нябожчыкаў. Пахавальны інвентар бедны: 2 бронзавыя рубчастыя пярсцёнкі, 2 скроневыя кольцы з меднага дроту і надзетых на яго пустых унутры шарыкаў, больш 10 квадратных і трохвугольных медных пласцінак ад налобных павязак. Датуецца 13—14 ст.

*Літ.*: 427. *Я. Г. Звяруга.*

**КА́МЕНКА,** археал. помнікі каля в. Каменка Дзяржынскага р-на.

Гарадзішча ранняга жал. веку і эпохі Кіеўскай Русі. За 400—500 м на ПдЗ ад вёскі, на ўзвышшы берага аднаго з прытокаў р. Уса. Мясц. назва Замак. Пляцоўка амаль круглая, памер 27×29 м, з З і У абмежавана ярамі, з боку рэчкі размыта. Утвораны размывам яр дзеліць пляцоўку на 2 мысападобныя часткі. З боку поля ўмацавана падковападобным валам выш. 3—4,5 м, шыр. каля 12 м (пашкоджаны ямамі). Схілы гарадзішча, частка пляцоўкі і валоў зараслі лесам і кустамі. Адкрыў і даследаваў у 1928 А. М. Ляўданскі, даследаваў 100 м² у 1961 А. Г. Мітрафанаў. Знойдзены каменныя вымасткі, рэшткі адной з камер доўгага жытла, шлакі, каменная зерняцёрка, гліняныя прасліцы, ляпная і ганчарная кераміка. Абследаваў у 1979 Ю. А. Заяц.

Селішча. Побач з гарадзішчам. Пл. каля 2,5 га. Адкрыў і абследаваў у 1928 Ляўданскі, абследавалі ў 1971 Л. Д. Побаль, у 1979 Заяц. Сабрана ляпная кераміка *банцараўскай культуры* і ганчарная эпохі Кіеўскай Русі.

Курган эпохі Кіеўскай Русі. На краі селішча, за 150 м злева ад дарогі ў в. Александрова. Выш. каля 2 м, даўж. 10 м, шыр. 8 м. Раней тут было 7 насыпаў, 4 з іх раскапаў у 1928 Ляўданскі. Пахавальны абрад — трупаспаленне ў насыпе.

*Літ.*: 331. *Ю. А. Заяц.*

**КА́МЕНКА,** археал. помнікі каля в. Каменка Навагрудскага р-на.

Курганны могільнік. За 500 м на ПнУ ад вёскі, у лесе. Захавалася 20 насыпаў сферычнай формы выш. 0,8—3 м, дыям. 4—9 м. Адзін курган прадаўгаваты, другі блізкі да квадрата. У дарэвалюцыйны час некаторыя насыпы былі даследаваны, у іх знойдзены бронзавыя пярсцёнак і 2 кольцы, фрагменты тканіны. У 1964 выявіў Л. Д. Побаль, у 1973 абследаваў М. А. Ткачоў.

Каменны могільнік. За 1,5 км на З ад вёскі, у лясным урочышчы Гавейша. Мясц. назва Татарскія магілы. Захавалася 90 магіл, якія абазначаны пастаўленымі тарцом плітамі і плоскімі камянямі без знакаў. Месцамі ёсць каменныя абкладкі. Выявіла і абследавала ў 1982 А. В. Квяткоўская.

Селішча зарубінецкай культуры і эпохі Кіеўскай Русі. У паўд. частцы вёскі, на беразе перасохлай ракі. Выявіў у 1965 Побаль. Знойдзены фрагменты ляпнога посуду.

Каля вёскі ў 1973 знойдзены рымскі манетна-рэчавы скарб.

*Л. Д. Побаль.*

**КА́МЕНКА,** археал. помнікі каля в. Каменка Рагачоўскага р-на.

Гарадзішча *мілаградскай культуры.* За 1,5 км на ПнУ ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадок, на карэнным левым беразе р. Ржаўка. Пляцоўка роўная, паўавальная, памер 40×30 м, з боку поля ўмацавана падковападобным валам выш. 0,5—1,1 м. З паўн. боку абмежавана ярам глыб. 1 м, з паўд.— ровам глыбінёй 0,5—0,6 м і вонкавым валам выш. 0,5—0,6 м. Вядома з 1873. Абследавалі ў 1930 А. М. Ляўданскі, у 1966 Л. Д. Побаль, у 1976 А. Р. Мітрафанаў. Культурны пласт у цэнтры пляцоўкі 0,2—0,3 м, каля вала 0,6—0,7 м. Знойдзены фрагменты ляпнога посуду. Датуецца 6 ст. да н. э.— 1 ст. н. э.

Селішча *мілаградскай культуры.* На У і Пд ад гарадзішча. Вядома з 1873, абследавалі ў 1930 Ляўданскі, у 1966 Побаль, у 1976 Мітрафанаў. Знойдзены фрагменты керамічнага посуду. Датуецца 6 ст. да н. э.— 1 ст. н. э.

Могільнік-1 радзімічаў. За 1,4 км на ПнУ ад вёскі. 102 насыпы дыям. 5—13 м, выш. 0,5—2,5 м (у цэнтры могільніка ёсць курганы выш. 3,5 м, дыям. 14—15 м). Каля асноў курганоў прасочваюцца раўкі. Вядомы з 1873, даследаваў 3 насыпы ў 1930 Ляўданскі, абследаваў у 1976 Мітрафанаў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне галавой на З. У 2 курганах пахаванні мужчын (адно на гарызонце, другое ў магільнай яме). Знойдзены ганчарны посуд, бронзавыя спражкі, паясныя кольцы, жал. крэсівы і нож. Датуецца 11—12 ст.

Могільнік-2 радзімічаў. За 200—300 м на Пд і ПдУ ад вёскі. 97 насыпаў дыям. 5—14 м, выш. 0,5—3,5 м. У паўд. частцы могільніка 12 насыпаў дыям. 16—24 м, выш. 3,5—6 м. Вядомы з 1873, даследаваў 3 курганы ў 1930 Ляўданскі, абследаваў у 1976 Мітрафанаў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце ў дамавіне. Знойдзены пярсцёнкападобныя бронзавыя скроневыя кольцы, пярсцёнкі, шкляныя пацеркі, фрагменты ганчарнай керамікі. Датуецца 11—12 ст.

*Літ.*: 718, 1046. *А. Р. Мітрафанаў.*

**КАМЕННЫ ВЕК,** самая стараж. эпоха ў развіцці чалавецтва, на працягу якой асн. прылады працы выраблялі з каменю (крэменю), існаваў ***першабытнаабшчынны лад.***

Пачаўся 3—2,5 млн. гадоў таму назад у Афрыцы, калі чалавек вылучыўся з жывёльнага свету, і закончыўся ў Еўропе 2,5—1,8 тыс. гадоў да н. э. Архаічныя людзі (*архантрапы*) распаўсюдзіліся па Паўд. Азіі, каля 1 млн. гадоў таму назад трапілі ў Паўд. Еўропу, Закаўказзе і Паўд. Украіну. Адрозніваюць старажытны К. в.— *палеаліт*, сярэдні — *мезаліт*, новы — *неаліт*. Палеаліт падзяляецца на ніжні (ранні), сярэдні, верхні (позні). У ніжнім палеаліце (больш за 150 тыс. гадоў назад) на працягу алдувайскай, дашэльскай, шэльскай, ашэльскай эпох архантрапы (пітэкантрап, сінантрап, атлантрап, гейдэльбергскі чалавек і інш.) карысталіся грубаабабітымі галечнымі прыладамі працы (масіўнымі рубіламі, разакамі, адшчэпамі), займаліся збіральніцтвам і паляваннем. Стаянкі людзей ашэльскай эпохі (300—150 тыс. гадоў таму назад) выяўлены на Пд Украіны. У гэты час уся тэр. Беларусі была пакрыта дняпроўскім (рыскім) ледавіком. Толькі ў сярэднім палеаліце, у мусцьерскую эпоху (150—35 тыс. гадоў таму назад) паявіліся палеантрапы (*неандэртальцы*), якія выкарыстоўвалі грубаапрацаваныя прылады пэўнай формы (востраканечнікі, рубілы, скрэблы, нажы з масіўных адшчэпаў і інш.). Іх жыццядзейнасць пачалася ў цёплую міжледавіковую (мікулінскую, муравінскую) эпоху з харак-



Аўтар карты У.Ф.Ісаенка

тэрнай для яе буйной расліннасцю, глыбокімі далінамі рэк і працягвалася ў пачатку апошняй ледавіковай (валдайскай, паазерскай, вюрмскай) эпохі. Мусцьерцы навучыліся паляваць на маманта, здабываць агонь, будаваць прымітыўныя жытлы, карысталіся скурамі, каб абараніцца ад холаду. Адбываўся пераход ад першабытнастаткавай грамады да радавога ладу; чалавек навучыўся перадаваць вытворчы вопыт, ператварыўся ў сацыяльную істоту, узніклі прымітыўныя рэлігійныя ўяўленні, рытуал пахавання, мова стала членараздзельнай. Магчыма, з адной з галін неандэртальцаў у познім палеаліце (35—11 тыс. гадоў таму назад) развіўся чалавек сучаснага фізічнага тыпу — неаантрап (Homo sapiens чалавек разумны). У гэты час узнікаюць і расавыя адрозненні: еўрапеоіднае (*краманьёнцы*), мангалоіднае і негроіднае (грымальдзійцы). Людзі жылі ва ўмовах суровага клімату ў лесастэпах, што ўтварыліся ў перыгляцыяльнай (прыледавіковай) зоне. Будавалі жытлы з касцей, жэрдак, скур жывёл, засялялі пячоры. Вял. дасягненнем крамянёвай вытворчасці было атрыманне пласцін (адколваліся ад прызматычных нуклеусаў), з якіх выраблялася больш за 100 тыпаў разнастайных прылад (нажы, разцы, скрабкі, скоблі, свердлы, праколкі, наканечнікі дзідаў і інш.). Высокі ўзровень мела апрацоўка косці, рога, іклаў маманта. З іх рабілі капалкі, лашчылы, дзяржанні для крамянёвага ляза, чурынгі, упрыгожанні. У апошнюю, мадленскую эпоху развівалася рэалістычнае мастацтва (выявы тагачасных жывёл, паляўнічых эпізодаў). Паляванне вялося не толькі на статкавых жывёл (маманта, паўн. аленя), але і на першабытнага быка, шарсцістага насарога, дзікага каня, пясца і інш. Пераход да мезаліту супадае ў Еўропе з завяршэннем *плейстацэну* і пачаткам *галацэну*, узнаўленнем лясной зоны і багатага відамі жывёльнага свету. У мезаліце (9—5-е тысячагоддзі да н. э.) у адных рэгіёнах пашырылася вытворчасць макралітаў — масіўных грубаабабітых прылад працы, якія служылі сякерамі, цёсламі, кіркамі, у другіх — мікралітаў — дробных крамянёвых вырабаў, кавалкаў пласцін, з якіх складаліся лёзы прылад працы. Самі прылады ўяўлялі сабой касцяныя, рагавыя, драўляныя дзяржанні, стрыжні, муфты і мелі пазы для замацоўвання мікралітаў. Авалоданне мікралітычнай тэхналогіяй дазваляла сяліцца ў бедных крамянёвай сыравінай абласцях. Шырока выкарыстоўваўся лук са стрэламі, драўляныя чаўны, быў прыручаны сабака. Плямёны займаліся паляваннем на буйных (тур, зубр, лось, алень, дзік) і дробных (бабёр, заяц, ліса) жывёл, птушак, рыбалоўствам. Неаліт у Еўропе (6—3-е тысячагоддзі да н. э.) пачаўся на Балканскім паўвостраве і паступова пашыраўся на яе ПнУ. У гэты час адбываўся пераход да вытворчай гаспадаркі (гл. *Неалітычная рэвалюцыя*), пачалі вырабляць гліняны посуд, была ўдасканалена вытворчасць каменных прылад працы (плоскае рэтушаванне, шліхтаванне, свідраванне). Развітое рыбалоўства пастаянна забяспечвала чалавека ежай, што вызваляла час для авалодання новымі спосабамі гаспадарання. Займацца земляробствам людзі пачалі ў 8—7-м тысячагоддзях да н. э. ў Двурэччы, Палесціне, з 6-га тысячагоддзя да н. э.— у Індакітаі, Пярэдняй Азіі. Неалітычныя плямёны выраблялі з каменю і рогу сякеры, цёслы, долаты, матыкі, з крэменю — наканечнікі стрэл і дзідаў, нажы, сярпы, скрабкі, разцы, праколкі, з косці — наканечнікі стрэл, дзідаў, гарпуны, рыбалоўныя кручкі, кінжалы, праколкі, фігуркі-амулеты, падвескі і інш. Гліняны посуд і, відаць, адзенне багата ўпрыгожвалі арнаментам. Вылучаны шэраг *археалагічных культур*, па якіх можна меркаваць пра этнічны падзел насельніцтва. Неаліт — эпоха росквіту мацярынска-радавога ладу, узаемадзеяння племянных груп, засялення рачных далін.

Аб пранікненні неандэртальцаў на



Арнаментаваная чурынга з ікла маманта **каменнага веку** з паселішча Юравічы-1 Калінкавіцкага р-на.

тэр. Беларусі ў мусцьерскую эпоху сведчаць асобныя прылады працы, знойдзеныя каля вёсак *Свяцілавічы*, Абідавічы, *Падлужжа*. Рэшткі верхнепалеалітычных стаянак захаваліся паблізу вёсак *Юравічы* (26 тыс. гадоў таму назад) і *Бердыж* (23 тыс. гадоў таму назад). Моцнае пахаладанне ў новавалдайскую стадыю абледзянення (неавюрм; 18—17 тыс. гадоў таму назад), верагодна, прымусіла чалавека адвандраваць на Пд. У басейне Дзясны захавалася група стаянак: *Елісеевічы, Юдзінава* і інш. Толькі ў канцы палеаліту (перыяд позналедавікоўя) пасля адступлення ледавіка ад лініі Гожа (Гродзенскі р-н) — Нарач (Мядзельскі р-н) — Лепель—Орша, утварэння Паазер'я, аднаўлення Балтыйскага мора зноў паяўляюцца паселішчы чалавека ў вярхоўях Прыпяці, Дняпра і Нёмана: Арэхава, *Бабровічы, Грэнск, Нобель, Свіцязь* і інш. У эпоху мезаліту ў залежнасці ад існуючых позняпалеалітычных традыцый і мясц. умоў склаліся вобласці з макралітычнай вытворчасцю прылад працы. У вярхоўях Прыпяці і Панямонні развіваліся *свідэрская культура*, мікра-макралітычная культура (*Збляны, Моталь*, Нобель, *Опаль, Сеньчыцы*, Омыт Ровенскай вобл.), а таксама мікралітычныя *каморніцкая культура* і *янїславіцкая культура*, у верхнім Падняпроўі — *грэнская культура* (Грэнск, *Рудня Споніцкая, Рэчыца-2*), *сожская культура* (днепра-дзяснінская; *Берагавая Слабада, Берасценава, Горкі, Глыбаўка, Журавель, Каромка, Печанеж, Янава*). Некалькі пазней (праз 2—3 тыс. гадоў) ва Усх. Палессі і Цэнтр. Беларусі пасяліліся плямёны, якія авалодалі мікралітычнай тэхналогіяй і карысталіся складанымі прыладамі з касцянымі апраўамі, дзяржаннямі і крамянёвымі ўстаўкамі (*Белая сарока, Дарашэвічы, Майсееўка, Краснаўка, Міраслаўка*). Толькі ў сярэдзіне мезаліту на тэр. Беларусі былі заселены даліны буйных рэк. Вядома каля 120 помнікаў эпохі мезаліту. У эпоху неаліту тэр. Беларусі стала цэнтрам этнакультурнай вобласці, насельніцтва якой выраблялa грабеньчатую кераміку 4 відаў. Былі заселены ўсе рачныя басейны. На ПдУ жылі плямёны *днепра-данецкай культуры* (Слабодка Калінкавіцкага р-на, *Юравічы, Юркавічы*), у вярхоўях Прыпяці і Панямонні — *нёманскай культуры (Добры Бор, Дубы, Камень, Панямонь, Русакова)*, на Дняпры і Сажы — *верхнеднягтроўскай культуры (Бабінавічы, Вець, Лучын, Дубовы Лог, Сябровічы, Струмень, Ходасавічы)*, у Паазер'і — *нарвенскай культуры (Асавец, Зацэнне, Галоўск)*. У 2-й пал. 3-га тысячагоддзя да н. э. на Пн Беларусі пранікліпрыбалтыйскія плямёны *тыповай грабеньчата-ямкавай керамікі культуры* (Берашча Лепельскага р-на, Немыкары Смаленскай вобл., *Скема*), на ПдЗ — *лейкападобных кубкаў культуры*. Пазней на З з'явіліся могільнікі *шарападобных амфар культуры (Малыя Ёдкавічы)*. У канцы неаліту — пач. бронзавага веку пасяліліся плямёны *шнуравой керамікі культур*. Пра шырокае выкарыстанне крэменю сведчаць Краснасельскія шахты. На У ад р. Сож жылі прадстаўнікі *дзяснінскай культуры*, якія выраблялі ямачна-грабеньчаты посуд. Вядома каля 700 стаянак эпохі неаліту, пераважная большасць якіх невялікія, сезонныя. Касцяныя вырабы захаваліся толькі на 11 з іх (Асавец, Галоўск, Камень і інш.). Пахаванні гэтага часу невядомыя. Можна меркаваць, што плямёны культур грабеньчатай керамікі, якія жылі скрозь на тэр. Беларусі, удзельнічалі ў этнагенезе балтаў, некаторыя элементы іх культур сталі спадчыннымі для продкаў славян. Плямёны, што праніклі з У і Пн і выкарыстоўвалі ямачна-грабеньчаты посуд, былі фіна-уграмі, а паселішчы з лейкападобным посудам належалі продкам германцаў. У пач. неаліту найбольшую ролю ў гаспадарцы адыгрывала рыбалоўства, потым (не пазней 4-га тысячагоддзя да н. э.) пад уплывам Валыні на ПдЗ Беларусі пачаў адбывацца пераход да вытворчай гаспадаркі, які на астатніх тэрыторыях расцягнуўся амаль на 2 тысячагоддзі. Была прыручана буйная рагатая жывёла, свінні, сеялі ячмень. Неаліт скончыўся ў пач. 2-га тысячагоддзя да н. э., калі пад уздзеяннем плямён культур шнуравой керамікі пачаўся *бронзавы век*. Асновай гаспадаркі сталі земляробства і жывёлагадоў-

ля, на змену мацярынска-радавому ладу прыйшоў патрыярхат.

*Літ.*: 119, 453, 460, 479, 480, 619, 847, 919, 1289, 1303. *У. Ф. Ісаенка.*

**КАМЕ́ННЫЯ БА́БЫ,** выявы чалавечых фігур, звязаныя з культам продкаў.

Сустракаюцца ў стэпавай паласе Еўропы і Азіі ад Прыкарпацця да Манголіі. Выраблены ў тэхніцы рэльефу, барэльефу, скульптуры, выш. 1—4 м. Вядомы К. б. бронзавага веку (2-е тысячагоддзе да н. э.), скіфа-сармацкага часу ў Прычарнамор'і, К. б. 4—9 ст., пакінутыя цюркамоўнымі народамі Азіі (Алтай, Казахстан, Манголія, Тува, Хакасія), К. б. ўсх. стэпаў ранняга сярэднявечча.

На тэр. Беларусі вядома каля 10 К. б., якія завезены для ўпрыгожання паркаў. Паводле звестак Е. Р. Раманава, у ліку першых К. б. завезена каля 1787 у Прапойск (цяпер Слаўгарад) для палаца кн. Галіцына. 2 К. б. былі пастаўлены ў Гомелі каля палаца кн. Паскевіча, 2 знаходзіліся ў маёнтках Дзедзілава пад Оршай і Крынкі пад Віцебскам (вядомы па фотаздымках). Некалькі К. б. было ў маёнтку Дабраўляны на Смаргоншчыне. Ва ўсіх фігур рукі складзены на жываце, у руках цыліндрычны кубачак. Мяркуюць, што К. б. завезены на Беларусь з Прыазоўя, датуюцца 11—13 ст.

*Літ.*: 813, 891, 984, 1242, 1415.
*Л. У. Дучыц, С. Я. Расадзін.*

**КАМЕ́ННЫЯ ІДАЛЫ,** гл. ў арт. *Ідалы.*

**КАМЕ́ННЫЯ КРЫЖЫ́,** прадметы культу хрысціянскай рэлігіі і выявы сімвала веры, зробленыя з валуноў. Зрэдку да гэтай групы адносяць крыжападобныя язычніцкія *ідалы.* Вядомы на тэр. Зах. і Усх. Еўропы, у Англіі і Скандынавіі. Падзяляюцца на памятныя, прыдарожныя, паклонныя і надмагільныя. Іх ставілі каля дарог (часцей на перакрыжаваннях), на месцах бітваў, водных пераправах, межах зямель, пры пракладцы новых шляхоў, закладцы гарадоў і храмаў, у гонар знамянальных падзей, па краях вёсак (для абароны ад эпідэмій і ад захаванне ад зава-ёўнікаў), на могілках. На Беларусі вядома больш за 100 К. к. пераважна на тэр. Падзвіння і Верхняга Падняпроўя. Па форме большасць крыжоў нагадвае лацінскі крыж — вертыкальны брус (каля 1,5 м) даўжэйшы за перакладзіну (1 м). Таўшч. 0,2—0,5 м. На некаторых крыжах у сяродкрыжжы высечаны крыжыкі рознай формы. Трапляюцца надпісы, манаграмы, выявы чалавека. Найб. старажытнымі лічацца крыжы 16 ст. каля в. Сокарава Бешанковіцкага, Вітунічы Докшыцкага, Вендараж Магілёўскага р-наў. Да позняга сярэднявечча, верагодна, адносяцца крыжы каля вёсак Пліса і Бабруйшчына Глыбоцкага, Дрысвяты Браслаўскага, Галошава Талачынскага, Даўгінава Вілейскага, Стража Кіраўскага р-наў, а таксама на могілках каля вёсак Астапкавічы і Сцяпанавічы Гарадоцкага р-на. Многія крыжы ў народзе вядомы пад уласнымі назвамі: Кацярыненскі крыж (Галошава), Федзькаў крыж (Заслаўе), Макараўскі, Маісееўскі і Скарпіён (каля воз. Сялява, Крупскі р-н). Бытуюць шматлікія паданні пра крыжы. Зберагліся К. к. ў вёсках Вендараж, Пліса, Бабруйшчына, Мішневічы, Дрысвяты, Галошава. Крыж з в. Вітунічы захоўваецца на тэр. Эксперыментальнай базы па вывучэнні ледніковых валуноў пры Ін-це геахіміі і геафізікі АН Беларусі.

*Літ.*: 813, 1052, 1123. *Л. У. Дучыц.*




**Каменныя бабы** з Дзедзілава (1), з Гомеля (2, 3), Крынак (4).

**КАМЕ́ННЫЯ КУРГАНЫ́,** збудаванні, цалкам складзеныя з камянёў, ці ўзведзеныя з камянёў і зямлі. Найчасцей гэта невысокія (рэдка больш за 0,5—0,8 м) плоскія насыпы дыям. ад 6 да 18—20 м. Пашыраны ў Верхнім і Сярэднім Панямонні, сярэднім цячэнні Зах. Буга. Даследавалі ў канцы 19— пач. 20 ст. М. П. Авенарыус, Э. А. Вольтэр, В. А. Шукевіч, М. Я. Янчук, С. Крукоўскі, у сярэдзіне і 2-й пал. 20 ст.— У. Антаневіч, І. В. Біруля, Я. Ясканіс, В. В. Сядоў, Т. М. Каробушкіна, Я. Г. Звяруга і інш. Большасць сучасных даследчыкаў лічыць каменныя курганы пахавальнымі помнікамі заходнебалцкіх (ятвяжскіх) плямён 1-га — пач. 2-га тысячагоддзя н. э. У найб. ранніх К. к. пахавальны абрад — трупапалажэнне. У 3—4 ст. побач з трупапалажэннямі сустракаюцца трупаспаленні. На рубяжы 4—5 ст. абрад трупаспалення становіцца пануючым. У пач. 2-га тысячагоддзя трупаспаленні зноў замяняюцца трупапалажэннямі. У курганах з трупапалажэннямі (ранніх і позніх) было звычайна адно, у выключных выпадках 2 і больш пахаванняў. Курганы з трупаспаленнямі нярэдка змяшчалі 2—3 і нават больш за 10 пахаванняў (т. зв. «сямейныя курганы»).

Пахавальны інвентар у курганах 2—4 ст. разнастайны. У мужчынскіх пахаваннях прадметы ўзбраення, рыштунку конніка і баявога каня (наканечнікі коп'яў, умбоны шчытоў, шпоры, цуглі), у жаночых — упрыгожанні (шыйныя грыўні, бранзалеты, пацеркі) і дробныя прылады працы (іголкі, прасліцы). У курганах 5—10 ст. з трупаспаленнямі інвентар значна бяднейшы. Рэчы, характэрныя для позніх жаночых трупапалажэнняў: пярсцёнкападобныя і трохпацеркавыя скроневыя кольцы, бляшкі ад налобных павязак, бранзалеты, пярсцёнкі; для мужчынскіх — наканечнікі коп'яў, крэсівы, спражкі. У каменных курганах 11—13 ст. сустракаюцца рэчы балцкіх і славянскіх тыпаў, што сведчыць пра славянізацыю балцкіх плямён. На Беларусі К. к. вядомы каля вёсак Ясудава, Падрось, Каўпакі, Кашалі, Войская, Свішчова, Трасцяніца, Ратайчыцы і інш.

*Літ.*: 424, 1056. *Я. Г. Звяруга.*

**КАМЕ́ННЫЯ МО́ГІЛЬНІКІ,** пахавальныя помнікі канца 10—17 ст., якія вызначаюцца наяўнасцю каменных вымастак над магіламі. Вылучаны ў асобны тып старажыт-

насцей бел. Панямоння. Вывучаць іх на Беларусі пачалі ў 1884—95 В. А. Шукевіч і Э. А. Вальтэр (у 10 могільніках ускрыта каля 200 пахаванняў). Яны вылучаюць 2 тыпы пахаванняў — *каменныя курганы* і каменныя магілы, аднак паслядоўнае іх размежаванне на аснове розніцы ў канструкцыях каменных вымастак, пахавальным абрадзе і інвентары не было праведзена. Рэчы з даследаваных імі могільнікаў у асн. страчаны. У 1930-я г. А. Дз. Каваленя вывучаў адзінкавыя пахаванні ў К. м. Віцебскай і Мінскай абл. па рэках Бярэзіне і Віліі. У 1936 Я. Фіцтке даследаваў могільнік каля в. *Падрось* Ваўкавыскага р-на.

Асн. колькасць К. м. знаходзіцца на тэр. Гродзенскай вобл., адзінкавыя помнікі вядомы ў Брэсцкай, Віцебскай і Мінскай абл., на ПдУ Літвы. Адзначаны адзінкавыя могілкі і групы могільнікаў па 2—3 і больш. Яны размешчаны па берагах рэк на невял. узвышшах з сухім пясчаным грунтам. Магілы знаходзяцца на пагорках і іх схілах, не дасягаючы падножжа. Найчасцей у К. м. налічваецца па 60—80 пахаванняў, толькі ў могільніках *Вензаўшчына, Клепачы* і *Куклі* колькасць магіл дасягае 180—200. Пахаванні цягнуцца радамі ў напрамку Пн — Пд (мерыдыянальная сістэма), на могільніку каля в. Клепачы больш старажытныя пахаванні знаходзіліся ў цэнтры (радыяльная сістэма). Размяшчэнне магіл групамі па 2—5 і выпадкі падзахаванняў сведчаць пра сямейны прынцып пахаванняў. Магілы ў групах заўсёды зрушаны ў адносінах адна да адной (паводле нар. павер'я, пашыранага і цяпер сярод жыхароў Шчучынскага і Мастоўскага р-наў, «калі нябожчыкаў сваякоў хаваць роўнымі радамі, роўнымі радамі паляжа ўвесь род»). Мясц. назвы К. м. «татарскія магілы», «шведскія магілы», «паганскія магілы», «баярскія магілы» і інш. Паданні пра іх паходжанне падзяляюцца на паданні-пераказы біблейскіх сюжэтаў (Клепачы, *Навасёлкі* Ваўкавыскага р-на) і нар. ўспамін аб нашэсці татар, войнах з крыжакамі і шведамі, эпідэміях і г. д.

Магілы абкладалі камянямі розных памераў у 1, зрэдку ў 2 слоі. У канцы 10 — пач. 13 ст. рабілі вымасткі — брукоўкі круглай, авальнай ці прамавугольнай формы (1,9×1,8×0,2 м, 3,2×1,3×0,25—0,3 м). У сярэдзіне 12 — пач. 13 ст. ў галаве пахаванняў пачалі ставіць вял. камяні акруглай ці падтрохвугольнай формы без слядоў штучнай апрацоўкі. У канцы 13 — пач. 14 ст. ў нагах пахаванняў зрэдку ставілі камяні адвольнай формы, з канца 14 — пач. 16 ст.— спецыяльна падабраныя ці расколатыя палавінкі невял. камянёў. У 14—17 ст. шырыня вымастак змяншаецца, захоўваецца авальная форма (Навасёлкі Ваўкавыскага р-на), набылі пашырэнне прамавугольныя вымасткі з невял. камянёў, пакладзеных у 2—3 паралельныя радкі; у галаве і нагах ставілі большыя камяні. У пач. 15 ст. на камянях у галаве пахаванняў пачалі выбіваць крыжы (Клепачы), у канцы 16—17 ст. распаўсюджаны крыжы рознай формы, зрэдку ў спалучэнні з салярнымі знакамі (*Мінеўшчына*). Вымасткі часта парушаны.

У канцы 10 — канцы 14 ст. пахавальны абрад — трупапалажэнне ў чатырохвугольнай яме з закругленымі вугламі і звужанай доннай часткай (даўж. 1,8—2 м, шыр. 0,5—0,8 м, глыбіня 0,5—1,3 м). Нябожчыка абстаўлялі з усіх бакоў дошкамі (шыр. 10—12 см, таўшч. 1,5 см), якія мацавалі часам драўлянымі цвікамі; зрэдку хавалі без дамавіны.



Пахавальны інвентар з **каменных могільнікаў:** сякера, нож, паясныя жалезныя кольцы, крэсіва з мужчынскага пахавання.



Пахавальны інвентар з **каменных могільнікаў:** нож, шматпацеркавыя скроневыя кольцы, пярсцёнак, бляшкі ад галаўнога ўбору з жаночага пахавання.

Нябожчык ляжаў заўсёды на спіне ў выцягнутым стане (на правым ці левым баку адзначаны толькі падзахаванні), арыентаваны галавой на Пн, Пз, ці У, Пд, ПдУ ці ПдЗ, зрэдку на З (мерыдыянальная сістэма арыенціроўкі, характэрная для стараж. фіна-угорскага насельніцтва). У магілу клалі рэчы нябожчыка, у мужчынскія пахаванні — прылады працы, зброю і інш., у жаночыя — упрыгожанні, рытуальныя рэчы, амулеты (зубы мядзведзя ці дзіка), сімвалічныя ключы (па сведчанні літоўскіх археолагаў, іх клалі гаспадыням ці эканомкам). Дзяўчынак да 5—6 гадоў, хлопчыкаў да 12 гадоў хавалі без інвентару.

У некаторых пахаваннях на дне магільных ям па-за дамавінай знойдзены невял. камяні (Вензаўшчына, Куклі) — звычай, зафіксаваны ў К. м. Мазовіі і Падляшша і не характэрны для Беларускага Панямоння; невялікія (дыяметр 10—15 см) вогнішчы каля плеч, тазавых костак, на ўзроўні каленяў або вугалі (шыр. слоя 1,5—2 см, таўшч. 0,08—0,15 м) вакол труны над усім шкілетам, не даходзячы да чэрапа; над чэрапам і нагамі; толькі над чэрапам і нагамі, але ніколі не дасягалі касцей як сімвалічная праява абраду трупаспалення. Гэтыя асаблівасці К. м. захоўваліся амаль да сярэдзіны 16 ст. (Навасёлкі Зэльвенскага р-на). Кавалкі керамічнага посуду пад каменнымі вымасткамі — рэшткі *трызны* (гаршчок, як сімвал жыцця, разбіваўся ў знак таго, што чалавек памёр), каменныя вымасткі — знак пакланення Перуну.

З часу ўваходжання Бел. Панямоння ў ВКЛ і афіцыйнага прыняцця хрысціянства ў пахавальным абрадзе з'явіліся новыя элементы — выбітыя крыжы на камянях у галаве пахаванняў, каменныя крыжы, устаноўленыя замест вял. камянёў (Асецішча Барысаўскага р-на). З сярэдзіны 16 ст. дошкі дамавіны пачалі мацаваць жалезнымі цвікамі (адлюстраванне біблейскай легенды пра распяцце Хрыста), зменшылася колькасць пахавальнага інвентару. У канцы 16 ст. рэчы зрэдку клалі не ў магілы, а пад каменныя вымасткі (Мінеўшчына Ваўкавыскага р-на). Да пач. 17 ст. пахавальны рытуал стаў зусім простым, інвентар і вуглі знікаюць з магіл, аднак звычай паліць галінкі і біць посуд на магіле, будаваць каменныя вымасткі існаваў да 1-й пал. 19 ст., у некаторых месцах (Ушацкі р-н) да пач 20 ст. Устойлівасць і пераемнасць пахавальных традыцый сведчаць аб этнічным адзінстве насельніцтва бел. Панямоння. Аналагі падобнага абраду і інвентару трапляюцца ў прыбалтыйскім гіст.-культ. рэгіёне, што дазваляе суаднесці насельніцтва бел. Панямоння з адным з балцкіх плямён — ятвягамі. Пацвярджэнне таму ёсць у стараж.-рус. летапісах. *А. В. Квяткоўская.*

**КА́МЕНЬ**, група стаянак каля в. Камень Пінскага р-на.

С т а я н к а-1 эпохі мезаліту (8—5-е тысячагоддзі да н. э.). На паўд. ускраіне вёскі, на пясчаных пагорках. Даўж. да 100 м. Выявіў і даследаваў у 1966 У. Ф. Ісаенка. Культурны пласт часткова пашкоджаны кар'ерам і эрозіяй. Сярод знаходак больш за 150 крамянёвых прылад працы.

С т а я н к а-2 эпохі неаліту і бронзавага веку (5—2-е тысячагоддзі да н. э.). За 2 км на ПдУ ад вёскі, на першай надпоплаўнай тэрасе левага берага р. Бобрык, ва ўрочышчы Ратне. Вышыня над узроўнем ракі

2,5 м. Памеры 200×60 м. Даследаваў у 1967—80 Ісаенка. Культурны пласт таўшч. 0,6 м падзяляецца на 2, месцамі на 3 гарызонты. Дзякуючы высокаму ўзроўню грунтавых вод і вапнаваму складу глебы захаваліся вырабы з рогу і косці. Ускрыта 8500 м².

Выяўлены рэшткі наземных жытлаў, агнішчаў, абкладзеных камянямі, сабрана больш за 4 тыс. касцей, якія належалі, відаць, не менш як 200 жывёлінам (дзік — 30%, лось — 10%, конь, тур, алень высакародны — да 7%, мядзведзь, бабёр, казуля, бык свойскі — 20%, свіння — 7%). У ніжнім гарызонце разам з раннеенеалітычнымі знаходкамі трапляюцца косці быка, гэта першыя звесткі пра свойскую жывёлу на тэр. Беларусі. Па колькасці знаходак стаянка займае выключнае становішча на Палессі: каля 40 тыс. апрацаваных крамянёў (у т. л. 8 тыс. прылад працы), 20 тыс. фрагментаў, 250—300 гаршкоў, сярод якіх гаршкі нёманскай і тшцінецкай культур. З прылад працы ёсць грубаапрацаваныя сякеры і цёслы, долаты, скрэблы, скрабкі, скоблі, праколкі, трохвугольныя наканечнікі стрэл і коп'яў, нажы і інш. Прылады працы, зробленыя з рагоў і касцей жывёл (70 экземпляраў — сякеры, цёслы, долаты, клінкі і інш.), да раскопак стаянкі былі вядомы на Палессі толькі па выпадковых знаходках.


Сэрцападобны амулет з рога лася са стаянкі-8 **Камень** Пінскага р-на.

Стаянка-3 эпохі неаліту і бронзавага веку (4—2-е тысячагоддзі да н. э.). За 2,5 км на ПдУ ад вёскі, паблізу б. хутара М. Шаламіцкага. Займае зах. схіл пясчанага ўзгорка выш. 5—7 м на левым беразе р. Бобрык. Даўж. 90 м. Даследаваў у 1967—80 Ісаенка.

Пры раскопках знойдзены 700 апрацаваных крамянёў, 192 прылады працы (трохвугольныя наканечнікі стрэл, крамянёвыя серп, клін, абломак матыкі бел.-літ. тыпу, плітка для шліфавання і інш.), абломкі 15—20 ляпных гаршкоў.

Стаянка-4 макралітычнай і нёманскай культур (9—4-е тысячагоддзі да н. э.). За 2,5 км на ПдУ ад вёскі, на паўн.-зах. схіле ўзгорка каля б. хутара Шаламіцкага. Даўжыня 200 м. Даследаваў у 1967—71 Ісаенка. Культурны пласт 0,2 м.

Знойдзены 1000 апрацаваных крамянёў, у т. л. 200 прылад працы (пласціністыя наканечнікі стрэл, скрабкі, разцы, нажы і інш.), абломкі 10 ляпных пасудзін.

Стаянка-6 нёманскай і шнуравой керамікі культур (5—2-е тысячагоддзі да н. э.). За 1 км на ПдУ ад вёскі, на першай надпоплаўнай тэрасе р. Бобрык, ва ўрочышчы Беляне. Выш. 2,5—4 м над узроўнем ракі. Выявіў у 1967 Ісаенка. У 1981—83 і 1986—87 ім праведзены раскопкі на пл. 1950 м². Культурны пласт 1—1,2 м, у ім прасочваюцца 3 культурныя гарызонты.

Знойдзена больш за 1700 прылад працы з крэменю (наканечнікі стрэл розных тыпаў, скрабкі, скоблі, скрэблападобныя вырабы, вастрыі, праколкі, устаўкі састаўных прылад, сякеры, цяслападобныя прылады для сячэння, адбойнікі, рэтушоры), каменныя шліфавальныя пліткі і цёрачнікі. Кераміка багата арнаментавана, прадстаўлена абломкамі некалькіх дзесяткаў вастрадонных пасудзін нёманскай культуры розных этапаў неаліту, пачынаючы з самага ранняга. Маюцца абломкі пасудзін і вырабы культур шнуравой керамікі. Знаходкі канцэнтраваліся вакол некалькіх агнішчаў, абкладзеных камянямі. Часткова захаваліся косці жывёл і касцяныя вырабы. Пазней на месцы стаянкі было селішча 6—8 ст. У паўн. частцы раскопу выяўлена прамавугольнае паўзямлянначнае жытло (4,4×3,2 м) з агнішчам, выкладзеным камянямі, з заглыбленнем у мацярык да 0,6 м. У другім жытле (3×2,5 м) знойдзены рэшткі агнішча з паглыбленнем на 0,3 м. Па-


Археалагічныя раскопкі на дне старажытнай пратокі на стаянцы-8 **Камень**. 1978.


Фрагменты глінянага вастрадоннага гаршка са стаянкі-8 **Камень**.

між жытламі — гасп. яма (1,8×1,1 м) з заглыбленнем да 1,2 м з сярпом на дне. Сярод позніх знаходак — развалы некалькіх ляпных пасудзін, жал. нажы, акоўкі, наканечнік стралы з шыпамі, крэсіва — прадметы, характэрныя для культуры ранніх славян.

Стаянка-8 эпохі неаліту і бронзавага веку (5—2-е тысячагоддзі да н. э.). На З ад вёскі і р. Бобрык, на дне пратокі Вісліцы, на глыбіні больш за 1 м. Даўж. да 150 м. У час раскопак, праведзеных у 1977—78 Ісаенкам, ускрыта 400 м². Культурны пласт 0,3—0,5 м.

Знойдзены рэшткі агнішчаў, косці жывёл, вырабы з косці, рогу і крэменю, шліфаваныя пліткі і абломкі посуду, іглападобныя наканечнікі дроцікаў (6), рыбалоўныя кручкі чатырох тыпаў (20), сякеры, нажы з расшчэпленых іклаў дзіка, унікальны сэрцападобны амулет, праколкі, кінжалы і інш., некалькі вырабаў з медзі і бронзы. На стаянцы сабрана найбольшая для Палесся калекцыя касцяных і рагавых вырабаў — 120 экземпляраў.

*Літ.*: 456, 459, 460, 462.

*У. Ф. Ісаенка.*

**КАМО́РНІЦКАЯ КУЛЬТУ́РА**, нарвенскі цыкл, археал. культура перыяду ранняга мезаліту на тэр. Польшчы і Зах. Беларусі (9—7-е тысячагоддзі да н. э.). Назва ад в. Каморніца (Польшча).

Для гэтай культуры характэрны прылады працы з пласцінкападобных адшчэпаў, пры апрацоўцы якіх выкарыстоўвалася мікралітычная тэхналогія (восі прылад звычайна не супадаюць з восямі нарыхтовак). На помніках К. к. найчасцей выяўляюцца вастрыі, апрацаванныя сустрэчнай рэтушшу, і паўвастрыі з дугападобным краем (тыпу Каморніца), «тупаспіннікі» (мікраграветы) з прамым краем (тыпу Ставінога або Кудлаеўка), выгнутыя ланцэтападобныя вастрыі, сегменты і падобныя да іх прылады разнастайнай шырыні з тупым вуглом у аснове, трохвугольнікі, кароткія і акруглыя скрабкі, вуглавыя і папярочныя разцы і інш. К. к. вылучана і даследавалася ў 1965—75 польскімі археолагамі Р. Шыльдам, М. Марчакам, Г. Венцкоўскай, С. Казлоўскім.

Асобныя вырабы і комплексы рэчаў, якія нагадваюць каморніцкія, сустракаюцца ў Панямонні, на ПдУ Беларусі (Беласарока), у складзе *рудавостраўскай культуры* Паўн. Украіны. *У. Ф. Ісаенка.*

**КАМПІНІ́ЙСКАЯ КУЛЬТУ́РА**, археал. культура макралітычнага выгляду перыяду ранняга неаліту (6—4-е тысячагоддзі да н. э.).

Вылучана на тэр. Паўн. Францыі ў 1886 Ф. Сальманам. Назва ад стаянкі Кампіньі ў дэпартаменце Прыморская Сена. Характарызуецца наяўнасцю вял. колькасці сякер і сякерападобных прылад: сякеры-траншэ, авальныя, нуклеаі пікападобныя (трохгранныя) прылады, грубыя скрэблы, скоблі і скрабкі, разцы, адбойнікі. Прылады апрацоўваліся спосабам грубага аббіцця каменнымі адбойнікамі, што нагадвае мусцьерскія прыёмы апрацоўкі. Насельніцтва К. к. палявала на аленя, дзікага каня, быка, займалася рыбалоўствам. У 1920-я г. К. к. разглядалася як універсальная стадыя развіцця, якая змяніла стадыю Тардэнуаза (мікралітычнай вытворчасці, назва паходзіць ад стаянкі Феран-Тардэнуа ў дэпартаменце Эна), і адносілася да данеалітычнага перыяду (протанеаліту).

Вобласці з падобным да К. к. макралітычным інвентаром выяўлены ў 1920-я г. ў верхнім і сярэднім Пасожжы (К. М. Палікарповіч), у 1950-я г. на Панямонні (Р. К. Рымантэне), у 1960-я г. ў вярхоўях Прыпяці (У. Ф. Ісаенка). Тут вылучаны макралітычныя *нёманская культура, сожская культура.*

*Літ.*: 798. *У. Ф. Ісаенка.*



Рагавыя сякеры са стаянкі-8 **Камень** Пінскага р-на.

**КАМЯНЕ́ЦКАЯ ВЕ́ЖА**, Камянецкі стоўп, «Белая вежа», помнік абарончага дойлідства канца 13 ст. ў г. Камянец. Размешчана на высокім узгорку на левым беразе р. Лясная. Паводле Іпацьеўскага летапісу, пабудавана паміж 1271 і 1289 дойлідам Алексам. Гіст. лёс вежы цесна звязаны з Камянцом. У 1276 валынскі кн. Уладзімір Васількавіч вырашыў заложыць на р. Лясная «град», як фарпост на зах. межах. Быў пабудаваны «столп-камен высотою 17 сажен... подобен удивлению всем зрящим нъ». Вежа знаходзілася ўнутры кальцавога вала і дамінавала над драўлянымі ўмацаваннямі. З боку р. Лясная да ўмацавання падступала балоцістая нізіна, з трох бакоў яго акружаў роў. Рэшткі землянога вала і драўлянага замка канчаткова зніклі ў 1903 у час правядзення рэстаўрацыйных і земляных работ. Паводле праекта арх. В. Суслава, вакол вежы быў зняты 3-метровы пласт зямлі, у выніку чаго 1-ы ярус, які раней памылкова лічыўся склепам, зноў апынуўся на паверхні. Аднак пры земляных работах бясследна зніклі стараж. вал і роў. Тады разабралі і скляпенні над 1-м і 2-м ярусамі, а замест іх паклалі драўляныя бэлькі. Цэгла для рэстаўрацыі зубцоў і сцяны (каля 10 тыс. шт.) была заказана селяніну Матыкальскай воласці С. Дранюку. Для правядзення земляных і цагляных работ запрасілі з Гродна вопытнага майстра А. Арцішэўскага. Вакол вежы быў насыпаны і абкладзены камянямі кальцавы вал. У такім выглядзе помнік дайшоў да нашых



**Камянецкая вежа.**

дзён. У пач. 1950-х г. вежу ўпершыню пабялілі, а падлогу забрукавалі. Вышыня 5-яруснай вежы 30 м, таўшчыня сцен 2,5 м, вонкавы дыяметр 13,6 м. Яна стаіць на магутным падмурку з каменю. Вышыня падмурка каля 2,3 м, дыяметр 16 м. Вежа змуравана з брусковай цэглы цёмна-чырвонага і жаўтаватага колеру (26,5×13,5×8 см) з характэрнымі падоўжнымі палосамі ў ніжняй частцы. Муроўка «балтыйская»—2 «лажкі» паслядоўна чаргуюцца з адным «тычком». Звонку на сценах захавалася вял. колькасць прамавугольных гнёздаў ад «пальцаў» рыштаванняў. Апрача таго, унутры зберагліся гнёзды і ад драўляных бэлек — перакрыццяў 5 ярусаў. Перакрыцці 2-га і 3-га ярусаў былі падвойнымі. Да 1903 над 1-м і 2-м ярусамі знаходзіліся скляпенні, цэгла і раствор якіх прыкметна адрозніваліся ад цэглы і раствору ў муры сцен. Сцены вежы прарэзаны байніцамі, паміж якімі на

вонкавай паверхні сцяны размешчаны 4 плоскія нішы з паўцыркульным завяршэннем. Над 5-м ярусам захаваліся рэшткі цаглянага купальнага скляпення з патоўшчанымі рэбрамі, якія заканчваюцца ўнізе невял. кранштэйнамі з вузкім пояском. Гэта скляпенне, мяркуючы па цэгле і растворы, пабудавана аднačасова з вежай. З 5-га яруса пачынаецца цагляная лесвіца-ход, што вядзе наверх да баявой пляцоўкі. Лесвіца праходзіць праз тоўшчу сцяны і асвятляецца 2 вузкімі акенцамі. Пляцоўка акружана 14 зубцамі, якія маюць скразную адтуліну, роўную па форме і велічыні лажку цагліны. У 2 зубцах зроблены вузкія акнападобныя праёмы. Завяршэнне вежы акружана зубчастай стужкай пярэбрыка. Помніку характэрны лаканічныя раманскія і раннегатычныя формы: стральчатыя вокны і праёмы, нервюрныя скляпенні на «гірках», паўцыркульныя плоскія нішы і байніцы. Велічны, манументальны аб'ём звужаецца ўверсе і не мае ні вертыкальных, ні гарызантальных чляненняў. К. в. адносіцца да тыпу т. зв. «валынскіх вежаў» і мае шмат агульнага з вежамі тыпу данжон, пашыранымі ў 12—13 ст. у краінах Зах. Еўропы. З 1960 у К. в. філіял *Брэсцкага абласнога краязнаўчага музея*.

*Літ.*: 7, 96, 209, 924, 949, 950, 1189, 1200. *М. А. Ткачоў.*

**КАМЯНІ З НАДПІСАМІ**, помнікі археалогіі і палеаграфіі. На Беларусі іх вядома больш за 30. Найчасцей на іх высечаны імёны, старажытнахрысціянскія выразы. Найб. вядомы *Барысавы камяні, Рагвалодаў камень, Варацішын камень*, камяні каля вёсак Пнеўшчына (Гарацкі р-н), Вярба (Аршанскі р-н), Паставічы (Старадарожскі р-н), Холмеч (Рэчыцкі р-н), Пышна (Лепельскі р-н). Распаўсюджаны таксама старажытн. намагільныя камяні з надпісамі; напр., камень 16 ст. на магіле Андрэя Каліны ў в. Галубічы Петрыкаўскага р-на.

*Літ.*: 909, 910.

*Л. У. Дучыц, Э. А. Ляўкоў.*

**КАМЯНІ З ПАГЛЫБЛЕННЯМІ**, культавыя валуны з натуральнымі альбо зробленымі чалавекам выемкамі і паглыбленнямі розных форм (карыта- і талеркападобныя, цыліндрычныя і інш.). Вядомы на тэр. усёй Еўропы. На Беларусі выяўлена больш за 20 такіх камянёў. Найб. вядомыя з іх: каля вёсак Палашкі (Воранаўскі р-н), Махірава (Полацкі р-н), Бертаўшчына (Міёрскі р-н), Жабінка (Глыбоцкі р-н), Лебедзева (Маладзечанскі р-н), Жукаўка (Вілейскі р-н), Шклянцы (Докшыцкі р-н).

*Літ.*: 22, 825, 1075, 1495.

**КАМЯНІ СА ЗНАКАМІ**, помнікі археалогіі і палеаграфіі, звязаныя са старaж. культамі і размежаваннем зямель. На іх нанесены разнастайныя па форме і памерах крыжы, крыжы ў спалучэнні з літарамі і надпісамі (напр., *Барысавы камяні*), манаграмамі, стрэлачкамі, падковамі, малюнкамі. Найб. распаўсюджаны валуны з выявай аднаго крыжа: каля вёсак Алексінічы (Сенненскі р-н), Збляны (Лідскі р-н), Завоссе (Навагрудскі р-н), Крываль (Любанскі р-н), Лучыцы (Петрыкаўскі р-н), Грабаўцы (Жабінкаўскі р-н) і інш. Камяні з выявай 2—3 крыжоў вядомы каля вёсак Шайцерава (Верхнядзвінскі р-н), Талькунцы (Воранаўскі р-н). Прыблізна 10 камянёў, на якіх высечаны крыжы ў спалучэнні з літарамі, выяўлены каля вёсак Камень (Вілейскі р-н), Краснікі (Докшыцкі р-н), Хвіневічы і Явар (Дзятлаўскі р-н), Геранёны (Іўеўскі р-н), Стайкі (Лагойскі р-н). Вядома 7 камянёў з высечанай на іх падковай: каля вёсак Мачаны (Лагойскі р-н), Кадарышкі (Шаркоўшчынскі р-н), Камянполле (Міёрскі р-н), Шавуры (Браслаўскі р-н), Сёмкаў Гарадок (Мінскі р-н), Юхавічы (Расонскі р-н), Вялічкаўцы (Ушацкі р-н). Камяні з высечанымі на іх малюнкамі вядомы каля вёсак Ліпск (Докшыцкі р-н) і Шайбакі (Шчучынскі р-н). На першым выява чалавека, на другім — галоў чалавека і каня, лука і стралы, а таксама краты.

*Літ.*: 525, 813, 909, 910, 1253.

*Л. У. Дучыц, Э. А. Ляўкоў.*

**КАМЯНІ «ЧОРТАВЫ»**, культавыя валуны, з якімі звязаны нар. павер'і пра чорта. Напрыклад, чорт нёс камень, каб ім разбіць божы храм ці падперці ў ім дзверы, хаваўся каля каменя, чэрці спраўлялі каля каменя свае святы, шылі адзенне, малолі муку (адсюль — чортавы жорны). Сустракаюцца камяні-*следавікі*, на якіх, паводле павер'яў, адбіты ступні (капыты, лапы) чорта. Даследчыкі мяркуюць, што такія камяні звязаны з культам язычніцкага бога Велеса. К. «ч». сустракаюцца на тэр. Беларусі, Літвы, Латвіі. На Беларусі вядома каля 20 такіх камянёў, з іх найб. вядомыя каля вёсак Ратынцы і Камень (Валожынскі р-н), Забор'е (Стаўбцоўскі р-н),



**Камянецкая вежа.** Рэканструкцыя Я. Куліка.



Байніца **Камянецкай вежы.**

Вароніна, Забор'е (Сенненскі р-н), Жукаўка (Вілейскі р-н), Асовы (Докшыцкі р-н).

*Літ.*: 674, 1495.

*Л. У. Дучыц, Э. А. Ляўкоў.*

**КАМЯНІ-КРАЎЦЫ,** камяні-шаўцы, археал. помнікі культавага прызначэння; валуны, якія, паводле паданняў, самі шылі адзенне (боты) або з'яўляліся хатай краўца (шаўца), праклятых за тое, што працавалі ў святочны дзень. Ахвяраванні камяням і паданні пра іх з'яўляюцца водгаласам веравання ў глыбокай старажытнасці. На Беларусі вядома прыблізна 10 такіх камянёў. Акрамя назвы Кравец, Шавец маюць таксама назвы Сцяпан, Чортаў камень, Змееў камень, Гомсін камень і інш. Найбольшую цікавасць уяўляюць камяні ў вёсках Куранец (Вілейскі р-н), Вароніна (Сенненскі р-н), Гогалеўка (Чашніцкі р-н), Камень (Валожынскі р-н), Стары Пагост (Міёрскі р-н), Краснікі (Докшыцкі р-н).

*Літ.*: 66, 136, 213, 674, 813.

*Л. У. Дучыц, Э. А. Ляўкоў.*

**КАМЯНІ-СЛЕДАВІКІ,** гл. ў арт. *Следавікі.*

**КАНВЕРГЕНЦЫЯ** (лац. convergere набліжацца, сыходзіцца) у археалогіі, наяўнасць у комплексах (сукупнасць рэчаў адной культуры, аднаго паселішча, жытла, пахавання і інш.) аднолькавых прыкмет, рэчаў, прыёмаў апрацоўкі, якія ўзніклі не на аснове запазычання, генетычных або традыцыйных сувязей, узаемаадносін сваяцтва або спадчыннасці, а выключна пад уплывам мэтазгоднасці, аднолькавых умоў існавання, як вынік знаходжання плямён на адной і той жа ступені грамадскага развіцця, наяўнасці аднаго гасп.-культ. тыпу. Канвергенты (рэчы, тыпы, з'явы і інш.) у розных этнасаў узнікаюць незалежна адзін ад аднаго і таму не могуць выкарыстоўвацца для высвятлення пераймальнасці культур, вызначэння ступені іх этнакультурнай генетычнай блізкасці або сваяцтва. *У. Ф. Ісаенка.*

**КАНІБАЛІЗМ,** людаедства, антрапафагія, паяданне людзьмі чалавечага мяса. У глыбокай старажытнасці К. быў пашыраны ў многіх плямён і народаў. Ён узнік на раннім этапе каменнага веку ў выніку недахопу ежы. Тэрміны «канібалізм» і «канібал» узніклі ў эпоху вял. геаграфічных адкрыццяў, калі Хрыстафор Калумб сутыкнуўся з людаедствам індзейцаў-караібаў і назваў іх «каніба». На тэр. Еўропы факты К. ўстаноўлены на Крапінскай палеалітычнай стаянцы неандэртальскага чалавека (Югаславія). Наяўнасць К. ў эпоху позняга неаліту ў Еўропе і Азіі многія археолагі прызнаюць несумненным. Пра яго існаванне сведчаць матэрыялы даследаванняў першабытных паселішчаў на Пн Беларусі. Знікненню К. садзейнічала прыручэнне жывёл і развіццё жывёлагадоўлі. Людаедства доўгі час існавала толькі ў сувязі з рэлігійна-магічнымі звычаямі. Вядомы факты К., выкліканыя працяглым голадам, які ўзнікаў у розных народаў. Напр., паводле Наўгародскага летапісу, пасля землетрасення 1230, у выніку голаду і мору людзі елі мох, жалуды, ліпавую кару, сабак, катоў, трупы людзей; некаторыя забівалі людзей, каб харчавацца іх мясам. Выпадкі К., справакаванага голадам, рэгістраваліся і значна пазней.

*Н. П. Александровіч.*

**КАНКАЛОВІЧЫ,** стаянка эпохі мезаліту каля в. Канкаловічы Стаўбцоўскага р-на. За 400 м на ПнЗ ад вёскі, на зах. краі пясчанага павышэння ўздоўж правабярэжнай тэрасы Нёмана, над затарфаваным поплавам. Даўж. з Пн на Пд 140 м, шыр. 30—40 м. Даследаваў у 1981 М. М. Чарняўскі. Ускрыта 44 м$^2$. Культурны пласт таўшч. да 0,3 м, невыразна акрэслены.

Знойдзены лістападобныя свідэроідныя наканечнікі стрэл, геам. мікраліты, скрабкі, нажы, разцы, фрагменты керамікі канца неаліту.

Датуецца 7—5-м тысячагоддзямі да н. э. *М. М. Чарняўскі.*

**КАНСЕРВАЦЫЯ** (ад. лац. conservatio захаванне) у археалогіі, комплекс мерапрыемстваў па захаванні формы і памераў, натуральнага колеру, тэкстуры і фактуры матэрыялаў, а таксама павелічэнні трываласці археал. знаходак ад розных уздзеянняў; абавязковая частка археал. даследавання. К. палявая (аператыўная) праводзіцца ў палявой рэстаўрацыйнай лабараторыі адразу пасля таго, як прадмет знойдзены, каб прадухіліць яго разбурэнне пры ўзаемадзеянні з навакольным асяроддзем. Звычайна знойдзены прадмет размяшчаюць ва ўмовах, якія аднаўляюць асяроддзе яго існавання ў культурным пласце. Такая апрацоўка выкарыстоўваецца як часовая мера захавання, таму асн. патрабаваннем да сродкаў кансервацыі з'яўляецца зваротнасць (магчымасць правесці рэкансервацыю). К. ў стацыянарнай лабараторыі забяспечвае магчымасць прафесійнай рэстаўрацыі. К. лабараторная (доўгачасовая) — апрацоўка прадметаў і аб'ектаў пэўным метадам, якая праводзіцца з улікам іх стану, ступені разбуранасці, умоў далейшай эксплуатацыі. Заклікана ўмацаваць і стабілізаваць іх формы і памеры без змянення колеру, тэкстуры і фактуры матэрыялу. Лабараторная К. звязана з глыбокім пранікненнем кансерванту ў структуру матэрыялу, які апрацоўваюць, таму неабходна праяўляць максімальную асцярожнасць пры выбары сродкаў кансервацыі, праводзіць яе з улікам сучаснага тэхнічнага ўзроўню і ў адпаведнасці з навук. патрабаваннямі. Захаванасць археал. рэчаў з арганічных матэрыялаў (косці, скуры, драўніны і тканін) звычайна бывае нездавальняючай. Для іх умацавання выкарыстоўваюць рэчывы як з прыродных, так і з сінтэтычных матэрыялаў. Гл. таксама *Кансервацыя драўніны.* *С. Ю. Казанская.*

**КАНСЕРВАЦЫЯ ДРАЎНІНЫ,** комплекс мерапрыемстваў па *кансервацыі* археал. прадметаў з дрэва. У культурным пласце дрэва захоўваецца пры ўмове павышанай вільготнасці або сухасці. На Беларусі, як правіла, сустракаюцца вільготныя культурныя пласты. Мяккія пароды дрэва (ліпа, асіна і інш.) асабліва моцна насычаюцца вільгаццю. Драўляныя рэчы і аб'екты, вынятыя з вільготнага культурнага пласта, пачынаюць хутка ўсыхаць. Пры гэтым паверхневыя слаі драўніны памяншаюцца ў аб'ёме хутчэй, чым унутраныя, што прыводзіць да дэфармацыі драўніны і разбурэння яе паверхні. Акрамя таго, прадметы ў пэўнай меры змяншаюцца ў аб'ёме (мяккія пароды драўніны ўсыхаюць больш, рэчы з самшыту, ядлоўцу і некаторых інш. парод амаль не ўсыхаюць). У палявых умовах знаходкі з вільготнага культурнага пласта можна змясціць у ёмістасць з вадой, а для транспарціроўкі і далейшага захавання — абгарнуць марляй, намочанай у слабым растворы антысептыку (напр., фармаліну або пентахлорфеналяту натрыю) і запаяць у поліэтыленавыя пакеты. Прынцып К. д. насычанай вадой заснаваны на замяшчэнні вады кансервавальным саставам з наступным яго зацвярдзеннем у структуры аслабленых клетачных сценак драўніны. Пры лабараторнай кансервацыі сярод шматлікіх кансервантаў найб. распаўсюджаны водараставаральны воск — поліэтыленгліколь. які добра стабілізуе форму і памеры прадмета. Аднак спосабы апрацоўкі гэтым прэпаратам патрабуюць шмат часу, пасля апрацоўкі фрагменты вырабаў набываюць цёмны колер. горш склейваюцца, часта павышаецца гіграскапічнасць рэчаў і аб'ектаў. Выкарыстоўваюць і метад кансервацыі вільготнай драўніны шляхам вымарожвання ў вакууме. Масавы матэрыял можна апрацаваць цыклічнай папераменнай апрацоўкай у 2 ваннах — гарачай, дзе ёсць раствор цукру і інш. дабаўкі, і халоднай з дабаўкамі феноласпіртоў. У залежнасці ад памераў і ступені разбурэння, 5—7-разовая апрацоўка забяспечвае павелічэнне трываласці стабілізацыю форм і памераў з захаваннем натуральнага колеру, тэкстуры і фактуры матэрыялу. Закансерваваныя такім чынам фрагменты вырабаў лёгка склейваюцца і таніруюцца, не патрабуюць асаблівых

рэжымаў захавання. Недахопам гэтага спосабу з'яўляецца яго незваротнасць.

Для хімічнай апрацоўкі драўляных аб'ектаў з мэтай захавання іх ад вогнебіяразбурэння выкарыстоўваюць антысептычныя і антыпірэнныя сродкі: растворы (у вадзе і арганічных растваральніках) буражсу, борнай кіслаты, пентахлорфеналяту, натрыю, хлорыстага цынку, фторыстага натрыю, біхрамату натрыю або калію, сульфату амонію, дыамонію фасфату. Некаторыя з іх фарбуюць драўніну ў ненатуральны колер. Пры павярхоўвай апрацоўцы аб'ектаў растворы можна ўвесці пэндзлем ці апырскваннем і інш. Глыбіннае ўвядзенне прэпаратаў робіцца апрацоўкай у аўтаклавах і ваннах з выкарыстаннем ціску, вакууму і гарача-халодных ваннаў, якія інтэнсіфікуюць працэс. Апрацоўка сухога матэрыялу, які страціў сваю трываласць, праводзіцца непасрэдна ў культурным пласце па меры расчысткі аб'екта шляхам прамочвання яго сінтэтычнай смалой у арганічным растваральніку, які не выклікае набухання (напр., раствор полібутылметакрылату ў ацэтоне) ці залівання расплаўленым парафінам. Драўніну, што захавала дастатковую трываласць, можна апрацаваць воднымі або спіртавымі растворамі, мачавіна-фармальдэгідных, меламінафармальдэгідных і інш. смол, якія не мяняюць колеру аб'екта, а потым абязводзіць, карыстаючыся мяккімі рэжымамі сушэння. На Беларусі К. д. праводзілася ў Брэсце (з 1971, упершыню ў СССР у палявых умовах), пры апрацоўцы шматлікіх археал. знаходак у Мінску, Брэсце, Віцебску і інш.

*Літ.:* 228, 251, 264, 469, 832.

*С. Ю. Казанская.*

**«КАНЬКІ́»** у археалогіі, умоўная назва плюснявых касцей буйной рагатай жывёлы, адзін бок якіх счасаны і зашліфаваны, у выніку чаго ўтвараецца выгін ніжняй пляцоўкі. Знойдзены пры раскопках у пластах 9—16 ст. у Полацку, Бярэсці, Віцебску, Друсвятах.

Полаз «К.», як правіла, меў адпаліраваную паверхню. Мяркуючы па даўжыні вырабаў (150—200 мм), імі карысталіся дзеці. Зрэдку сустракаюцца «К.» даўж. полаза да 256 мм. Прызначэнне іх да канца не высветлена. Шэраг даследчыкаў лічыць, што яны выкарыстоўваліся выключна для катання па лёдзе (пры гэтым стараж. «канькабежцы» адштурхоўваліся пры дапамозе палак, якія трымалі ў руках). Маглі таксама выкарыстоўвацца поруч з лыжамі для перамяшчэння ў час зімовага палявання. Адсутнасць у частцы «К.» слядоў адтулін для прывязвання іх да нагі, а таксама якіх-небудзь прыкмет зношанасці ад трэння аб лёд дазваляе меркаваць пра магчымае выкарыстанне іх для глянцавання і прасавання пры апрацоўцы тканіны, скур, футра.

*Літ.:* 92, 702, 1069, 1347.

*Т. С. Бубенька.*

**КА́НЬКІ**, гарадзішча *днепра-дзвінскай культуры* каля в. Канькі Віцебскага р-на. За 500 м на ПдУ ад вёскі, ва ўрочышчы Цербахунь. Займае выспу правага берага р. Зах. Дзвіны. Пляцоўка памерам 40×60 м, паўд. частка размыта ракой. Умацавана 3 кальцавымі валамі і 2 равамі: адзін вал —вакол пляцоўкі, другі і трэці — па схіле. Выш. валоў 3,5, 2 і 1,5 м, глыб. равоў 1,5 і 2 м. Пляцоўка занята могілкамі. Даследавалі ў 1934 А. М. Ляўданскі, К. М. ПаліКарповіч, у 1951 Л. В. Аляксееў, абследаваў у 1981 Л. У. Калядзінскі. Культурны пласт 0,6—0,8 м. Знойдзены амаль цэлая печ-домніца і фрагменты ляпной гладкасценнай керамікі. Датуецца 2 ст. да н. э.— 3 ст. н. э.

*Літ.:* 34, 722. *Л. У. Калядзінскі.*

**КАПА́**, 1) грашовая адзінка на Беларусі ў 14—19 ст., роўная 60 грошам.

Утварылася эмісіяй *гроша пражскага*, чаканенага па *стапе* 60 манет з пражскай вагавой *маркі* серабра, роўнай у той час ≈222,00 г. З сярэдзіны 14 ст. да 1490-х г. бытавала ў Польшчы — выцесніла лікавую *грыўню польскую* і саступіла потым *злотаму*. З 2-й пал. 14 ст. да 1569 была асновай грашовага ліку грошаў пражскіх, у 16 ст.— грошаў літоўскіх, зрэдку грошаў польскіх у ВКЛ. У 1569—1795 у Рэчы Паспалітай копны лік традыцыйна апіраўся на лікавы *грош літоўскі*. Пасля далучэння Беларусі да Расійскай імперыі (1795) К. грошаў літоўскіх адпавядала 50 капейкам, з 1825 да адмены дзеяння Статута ВКЛ (1840) — 1 рублю 20 капейкам.

2) Лікавая адзінка (60 аднародных прадметаў), вядомая на тэр. Беларусі і Украіны ў 1300—1940-я г.

*Літ.:* 1585, 1693. *В. С. Касмылёў.*

**КАПАТКЕ́ВІЧЫ**, курганныя могільнікі *дрыгавічоў* каля г. п. Капаткевічы Петрыкаўскага р-на.

Могільнік-1. За 2 км на З ад пасёлка, на беразе р. Пціч, ва ўрочышчы Гальца. 15 курганоў. У 1889 У. З. Завітневіч раскапаў 5 з іх. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце галавою на З. У адным пахаванні знойдзена буйная бронзавая пацерка, астатнія без інвентару.

Могільнік-2. За 3 км на ПнЗ ад пасёлка, ва ўрочышчы Балотца. 5 курганоў выш. 0,85 м, дыям. 8—9 м. У 1889 Завітневіч даследаваў 2. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце галавою на З. Знойдзены фрагменты ганчарнай керамікі.

Могільнік-3. За 1 км на Пд ад пасёлка. 20 курганоў (цяпер не існуе). У 1889 Завітневіч даследаваў 7 насыпаў. Пад адным выяўлены попел і вугалі, у астатніх — трупапалажэнні на гарызонце галавою на З.

*Літ.:* 380, 994.

*Г. В. Штыхаў, Ю. А. Заяц.*



Касцяныя **канькі** з Полацка. 12 ст.

**КАПЕ́ЙКА**, манета, роўная 1/100 рубля. На першым выпуску манеты была змешчана выява конніка з шабляй, пазней з кап'ём (адсюль назва: дзенга капейная, потым капейка). 1) Сярэбраная грашовая адзінка ў Расіі без адзнакі наміналу. Эмісія пачалася ў часы грашовай рэформы 1533—35 накшталт дзенгі-наўгародкі (маса 0,68 г).

Чаканілі ўсе *дзенежныя двары* на дроце, таму манета мела няправільнаавальную форму і адбіткі штэмпеляў атрымліваліся няпоўныя. У 1610 маса К. паменшылася да 0,56—0,54 г, у 1613 — 0,5—0,48, у 1626 — 0,47—0,46 г, у 1645 — 0,46—0,45, у 1698 — 0,28 г. *Метрычная проба* 960 не мянялася. Апошняя драцяная К. выпушчана ў 1718. Залатыя драцяныя К. (часам залачонае серабро) спарадычна чаканілі штэмпелямі сярэбранай К. ў 16—17 ст. для ўзнагарод за воінскія подзвігі; апошняя такая К. выпушчана пры цару Фёдару Аляксеевічу [1676—82]. У 1610 Васіль Шуйскі [1606—10] і польскія інтэрвенты, якія валодалі Масквой у 1610—12, чаканілі залатую К. для абарачэння коштам у 10 разоў большым за сярэбраную. Медная драцяная К. эмітавалася з 1655 для абарачэння па афіцыйна-прымусовым курсе парытэтным сярэбранай К. Наміналь-

ная вартасць меднай (чырвонай) К. змяншалася,і да мая 1663 стала ў 15 разоў меншай за сярэбраную, таму была знята ўрадам з абарачэння.

2) Манета, уведзеная ў Расіі ў выніку *грашовай рэформы Пятра I.*

Выпускалі *манетныя двары Расійскай дзяржавы* з медзі і серабра (1-я трэць 18 ст.). Адзнака наміналу **копейка,** медзь: Кадашаўскі манетны двор у 1704—05, 1707—08, 1710—12 (маса 8,35 і 8,19 г), 1713—18 (маса 8,19 г), 1727—29 (маса 4,1 г); Набярэжны манетны двор у 1707—12 (маса 8,35 і 8,19 г), 1713—18 (маса 8,19 г); нявыяўлены манетны двор (Масква) у 1713, 1716—18 (маса 8,19 г); Екацярынбургскія казённыя горныя заводы ў 1726 (маса 16,38 г, *кліпа*); Екацярынбургскі манетны двор у 1763, 1789—91, 1794—96 (маса 10,24 г), 1796, 1849—67 (маса 5,12 г); Красны манетны двор у 1759, 1763—64, 1766—67, 1788, 1795 (маса 10,24 г); Пецярбургскі манетны двор у 1764, 1766—67 (маса 10,24 г), 1849 (маса 5,12 г); Таўрычанскі манетны двор у 1787 (маса 10,24 г); *Варшаўскі манетны двор у* 1850—53, 1855—56, 1858—64 (маса 5,12 г); без пазначэння двара ў 1757—59, 1760—61, 1788—89, 1795 (маса 10,12 г). Адзнака наміналу **копейка** і рэльефная кропка, серабро: без пазначэння манетнага двара ў 1713—14 (залатніковая проба каля 38, лігатурная маса каля 0,6 г), 1718 (проба 38, маса 0,37 г). Адзнака наміналу **1 копейка,** медзь: Красны манетны двор у 1755—57 (маса 20,48 г); Екацярынбургскі манетны двор у 1755—56 (маса 20,48 г), 1797—1801, 1804—05 (маса 10,24 г), 1810—13, 1815, 1818—25, 1827—30 (маса 6,83 г), 1830—38 (маса 4,55 г), 1867—76 (маса 3,28 г); Пецярбургскі (з 1914 Петраградскі) манетны двор у 1755—56 (маса 20,48 г), 1810—11, 1828 (маса 6,83 г), 1830 (маса 4,55 г), 1867—71, 1876—1916 (маса 3,28 г); Анінскі манетны двор у 1797 (маса 10,24 г); Калыванскі манетны двор у 1797—99 (маса 10,24 г); Сузунскі манетны двор у 1804—05, 1807 (маса 10,24 г), 1810—30 (маса 6,83 г), 1831—38 (маса 4,55 г); Колпінскі манетны двор у 1811—14 (маса 6,83 г); без пазначэння двара ў 1755—57 (маса 20,48 г), 1810 (маса 10,24 г). Адзнака наміналу **1 — одна копейка** і рэльефная пяціпрамянёвая зорачка, медзь; без пазначэння манетнага двара ў 1762 (маса 5,12 г). Адзнака наміналу **1 копейка серебром,** медзь: Сузунскі манетны двор у 1839—47 (маса 10,24 г); Екацярынбургскі манетны двор у 1840—44 (маса 10,24 г); Пецярбургскі манетны двор у 1840—43 (маса 10,24 г). Адзнака наміналу **монета сибирская — копейка,** на рэверсе — герб княства Сібірскага (два собалі, якія трымаюць геральдычны шчыт, увянчаны княжацкай каронай); медзь; Калыванскі манетны двор у 1764, 1766—79 (маса 6,55 г).

3) Бона Вярхоўнага Галоўнакамандавання германскай арміі ў 1-ю сусветную вайну (для акупіраваных тэр. Расіі). Адзнака наміналу 1 ко-



**Капейка.** Расія: 1. Іван IV Грозны [1547—84]; 2. Фёдар Іванавіч [1584—98]; 3. Барыс Гадуноў [1598—1605]; 4. Фёдар Барысавіч, 1605; 5. Ілжэдзмітрый I [1605—06]; 6—7. Васіль IV Шуйскі [1606—10], 7 — золата; 8. Шведская акупацыя Ноўгарада 1611—17 (з імем Васіля IV Шуйскага); 9. Уладзіслаў Жыгімонтавіч [1610—12]; 10. Яраслаўская чаканка з імем Фёдара Іванавіча, 1612; 11—12. Міхаіл Фёдаравіч [1613—45], 11 — золата; 13—15. Аляксей Міхайлавіч [1645—76], 14 — медзь, 15 — золата; 16. Фёдар Аляксеевіч [1676—82]; 17—18, Іван V Аляксеевіч [1682—96], 18 — золата; 19—23. Пётр I, недатаваная (серабро), недатаваная (золата), 1713 і 1718 (серабро), 1724 (медзь); 24—27. Кацярына I, 179 1796 (25, 26), 1777 (сібірская); 28. Аляксандр I, 1811; 29—31. Мікалай I, 1828, 1839, 1850; 32—33. Аляксандр II, 1857, 186 34. Аляксандр III, 1890; 35. Мікалай II, 1916. СССР: 36—39. 1925, 1934, 1939, 1961.

пейка (гл. ў арт. *Боны германскіх акупацыйных войск 1916*). 4) Манета СССР. Адзнака наміналу **1 капейка:** Ленінградскі манетны двор у 1924—25 (медзь, маса 3,27 г), 1926—41, 1945—46, 1948, 1958 (алюмініевая бронза, маса 1 г), з 1961 (медна-цынкавы сплаў, маса 1 г).

*Літ.:* 1537, 1558, 1605, 1606, 1617.

*В. Н. Рабцэвіч.*

**КАПЕ́РНІКА—ГРЭ́ШЭМА ЗАКО́Н,** прыватнае праяўленне закону вартасці ў галіне грашовага абарачэння, згодна з якім грошы прымусовага курсу меншай вартасці выцясняюць паўнавартасныя металічныя грошы аднолькавых ці розных з імі наміналаў і металаў ва ўмовах паралельнага абарачэння манет рознай рэальнай вартасці па адным курсе. Асноўныя палажэнні сфармуляваны польскім вучоным М. Капернікам (1526) і англійскім фінансавым дзеячам Т. Грэшэмам (1560). Адпаведна гэтаму закону адбываецца канцэнтрацыя на манетных дварах паўнавартасных манет для вырабу непаўнавартасных, паток за мяжу краіны паўнавартаснай манеты ў абмен на тавары або непаўнавартасную, накапленне скарбаў паўнавартасных манет насельніцтвам, *псаванне манеты* (падгонка старой добрай манеты пад якасныя паказчыкі новай), адказ ад афіцыйнага курсу і ўстанаўленне рыначнага. Пры ўмове здаровага грашовага абарачэння адбываецца поўны абмен па кошце металу старой манеты на новую пры змене *лігатурнай масы* ці *пробы* ў бок павышэння або паніжэння вартасці манеты. Ва ўмовах папяровага і безнаяўнага грашовага абарачэння больш якасныя (цвёрдыя) грошы выцясняюць менш якасныя (менш стабільныя) грашовыя знакі.

*Літ.;* 225, 1622, 1639. *І. І. Сінчук.*

**КАПЕ́Ц,** пашыраная на Беларусі мясц. назва земляных насыпаў, межавых знакаў, а таксама асобных курганоў і курганных могільнікаў.

На думку В. В. Сядова, слова «К.» — балтызм, які захаваўся ў бел. мове да цяперашняга часу (літ. karas — магіла). Курганы-капцы выш. да 3 м з пахавальнымі абрадамі трупаспалення і трупапалажэння належалі *дрыгавічам* і *крывічам* і датуюцца 9—12 ст. Найб. іх колькасць, як і тапонімаў, утвораных ад слова К., зафіксавана ў Мінскай вобл., трапляюцца яны ў Віцебскай, Магілёўскай і Гомельскай абласцях. У пісьмовых крыніцах 17 ст. пры апісаннях матэрыялаў аб удакладненні граніцы паміж Віцебскім і Мсціслаўскім ваяводствамі ў 1648 часта ўжываецца слова «К.» у сэнсе штучна збудаваны пагорак.

*Літ.:* 1053, 1087. *Г. В. Штыхаў.*

**КАП'Ё,** дзіда, халодная колючая або кідальная зброя. Складалася з дрэўка даўж. 1,5—4 м і наканечніка з каменю, косці або жалеза. На Беларусі вядома з эпохі верхняга палеаліту. Першыя наканечнікі К. выраблялі з крэменю (з бакавой выемкай, падчасаныя ў ніжняй частцы для мацавання ў дзяржанні і ў верхняй — для падпраўкі ляза) ці з біўняў маманта (у выглядзе верацяна з падоўжаным пазам для сцёку крыві). У позні перыяд верхняга палеаліту выкарыстоўвалі наканечнікі ў форме тронак і лістападобныя з рэтушшу, выемкамі і падчосам. У эпоху мезаліту паявіліся новыя тыпы наканечнікаў з выкарыстаннем мікралітычнай тэхнікі. Жалезны наканечнік складаўся з пяра (баявая частка) і насадкі (канічная ўтулка або тронкі), якой наканечнік мацаваўся да дрэўка. Формай пяра наканечнікі К. падзяляліся на 2 віды —



з падоўжным рабром з абодвух бакоў і кругласатым пяром.

Упершыню каменны наканечнік К. знойдзены на стаянцы *Падлужжа*, наканечнікі з біўняў маманта — на стаянцы *Елісеевічы*. Бронзавае К. знойдзена на курганным могільніку-3 *Ходасавічы*. На помніках мілаградскай культуры ранняга жал. веку (*Гарошкаў, Дубай*) знойдзены наканечнікі К. утулкавыя, з ліста- ці ромбападобным пяром, даўж. 16—28 см. На помніках зарубінецкай культуры знойдзена 14 (пераважна ў *Чапліне*) жал. утулкавых наканечнікаў К. (двухшыпныя дроцікі даўж. 14—50 см, мелі кругласатае або гранёнае сячэнне. Пры раскопках гарадоў 9—17 ст. (Крычаў, Чачэрск, Ваўкавыск, Навагрудак, Слонім, Гродна, Полацк і інш.) у курганных могільніках знойдзены К. лаўралістай, чатырохкантовай, ромба-, кліна- і пікападобнай формы. Вузкія, масіўныя і выцягнутыя К. прабівалі разнастайную браню, наносілі глыбокія раны і выклікалі хуткую гібель праціўніка ці яго каня. Разнавіднасці К.— піка, вял. рагаціны. Рагаціны мелі шыр. пяра 5—6,5 см, даўж. лаўралістага наканечніка да 60 см. Піка была доўгім аблегчаным К., ужывалася ў пяхоце да канца 17 — пач. 18 ст., у




Наканечнік **кап'я.** Віцебск, 15 ст.

32 см і ўласна К. з вербалістым двухбаковавострым пяром). Жалезныя наканечнікі К. знойдзены на гарадзішчах культуры штрыхаванай керамікі (*Аздзяцічы, Лабеншчына*, Свідна ў Пастаўскім і *Малышкі* ў Вілейскім р-нах). Двухшыпныя жал. дроцікі знойдзены на гарадзішчах *Банцараўшчына*, Лабеншчына і *Аўгустова*. Аналагічныя К. і дроцікі знойдзены на гарадзішчах днепра-дзвінскай культуры (*Паддубнікі, Кублічы*, Буракова ў Верхнядзвінскім р-не) і інш. Тры К. з вербалістымі лёзамі, вял. ўтулкамі, даўж. 18—22 см знойдзены на гарадзішчы *Хатомель*. У 1-й пал.— сярэдзіне 1-га тысячагоддзя н. э. дзіда з жал. пяровым наканечнікам і насадкай была асн. зброяй балцкіх плямён, што засялялі тэр. Усх. Прыбалтыкі і Беларусі. Для дзідаў блізкага бою ўжывалі масіўныя наканечнікі, для *суліц* — маленькія. З 6 ст. лёгкія дзіды выкарыстоўвалі славяне. Тэрыторыя Усх. Еўропы ў 9—10 ст. была рэгіёнам бурнага развіцця дрэўкавай зброі. У эпоху Кіеўскай Русі К. было самым масавым відам зброі пехацінцаў і коннікаў.

Для Беларусі ў 11—13 ст. найбольш характэрнымі былі ланцэтападобныя наканечнікі К. (зах. паходжання) і розныя варыянты наканечнікаў з шырокім пяром падоўжана-трохвугольнай формы. Наканечнікі дзідаў знойдзены ў Заслаўі, Гродне, Друцку, Ваўкавыску, могільніках Воранаўскага р-на і інш. З ранняга сярэднявечча выкарыстоўвалі вузкапёрыя доўгія дзіды і пікападобныя гранёныя наканечнікі з канічнай утулкай. Апошнія на Беларусі былі пашыраны ў 13—14 ст., калі распаўсюдзіліся стальныя пласціністыя даспехі. У эпоху стала-га і позняга сярэднявечча ўзніклі новыя доўгія гусарскія дзіды. Іх наканечнікі ў 16—17 ст. былі даўж. каля кавалерыі — да пач. 20 ст. На Беларусі ў 16—17 ст. у кавалерыі выкарыстоўваліся гусарскія К. даўж. да 5 м. Дрэўкі такіх К. унутры былі пустыя (для змяншэння вагі), таму пры таранных ударах яны часта крышыліся.

*Літ.:* 46, 272, 424, 425, 475, 527, 772, 847, 903, 1457, 1508.

*Г. М. Сагановіч, М. А. Ткачоў.*

**КА́ПІШЧА,** гл. ў арт. *Свяцілішчы.*

**КАПЛА́НЦЫ,** гарадзішча жал. веку і ранняга феадалізму каля в. Капланцы Бярэзінскага р-на. За 1 км на ПдУ ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадзішча. Выш. над поймай 20 м. Даследаваў у 1988 Л. Д. Побаль. Пляцоўка круглая, дыям. 50 м. З зах. боку па яе краі праходзіць дугападобны вал.

Ва ўсх. частцы пляцоўкі закладзены шурф 1 × 1 м. Культурны пласт каля 1 м. Знойдзены ляпны посуд мілаградскай і зарубінецкай культур, Стараж. Русі, фрагменты падковападобнай фібулы і жал. шыла, ганчарны посуд 10—13 ст. Непадалёку ад К. выяўлена больш за 120 курганоў.

Паводле меркаванняў даследчыка К. былі радавым цэнтрам абшчын, якія размяшчаліся на тэр. каля 300 км$^2$ у басейне ніжняга цячэння р. Клёвы. *Л. Д. Побаль.*

**КАПЫ́ЛЬСКІ КРАЯЗНА́ЎЧЫ МУЗЕ́Й.** Адкрыты ў 1978 у г. п. Капыль. Мае 4 экспазіцыйныя залы (пл. 102 м$^2$), 4,5 тыс. экспанатаў асн. фонду (1991), у т. л. археал. знаходак каля 300 адзінак. Экспануюцца скрабкі, нажы, каменныя сякеры, знойдзеныя на Капыльскім гарадзішчы. У нумізматычнай калекцыі каля 500 манет, у т. л. медны солід 17 ст., сярэбраныя і медныя манеты 19—20 ст.

**КАПЫСІЦА,** курганны могільнік эпохі Кіеўскай Русі каля в. Капысіца Шклоўскага р-на. За 200 м на Пн ад вёскі, на полі. 6 курганоў дыям. 6—7 м, выш. 3—4 м. Вядомы з 1873. Абследавалі ў 1968 Г. В. Штыхаў, у 1969 А. А. Выржыкоўскі, у 1977 В. Ф. Капыцін, у 1978 і 1983 В. М. Ляўко. Раскапаны 2 насыпы. У адным былі пахаванні па абраду трупапалажэння галавой на З: 7 шкілетаў, з іх адзін мужчынскі і 6 дзіцячых. Ніжэй пахаванняў адзначана праслойка попелу і вуголля.

*Літ.:* 1046. *В. М. Ляўко.*

**КАПЫ́ЦІН** Вячаслаў Фёдаравіч (н. 1.1.1942, в. Трылесіна Дрыбінскага р-на), беларускі археолаг.



В. Ф. **Капыцін.**

Канд. гіст. навук (1977), дацэнт (1984). Пасля заканчэння Магілёўскага педагагічнага ін-та (1969) — асістэнт, выкладчык, з 1978 заг. кафедры ўсеагульнай гісторыі гэтага ін-та. Даследаваў помнікі эпохі мезаліту Верхняга Падняпроўя: стаянкі *Баркалабава, Бароўка, Горкі, Грэнск, Журавель* і інш. Вылучыў самастойную *сожскую культуру* позняга мезаліту на тэр. паўд.-ўсх. Беларусі.

*Тв.:* Поздний мезолит Посожья // Изыскания по мезолиту и неолиту СССР. Л., 1983; К характеристике мезолита Верхнего Поднепровья (по материалам стоянки Журавель) // Палеолит и неолит. Л., 1986; Каменный век на территории Белоруссии. Мн. 1990.

**КАРАБЕ́ЛЬНІК,** карабелнік, караблені к, назва англ. *нобля* ў бел. пісьмовых крыніцах 1480—1530-х г.

**КАРАЛЁВА СЛАБАДА́,** паселішчы мезаліту каля в. Каралёва Слабада Светлагорскага р-на.

Паселішча-1 *днепра-дзяснінскай культуры.* За 500 м на ПдУ ад вёскі, на 2-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Бярэзіна (выш. над узроўнем вады 10 м). Адкрыў і даследаваў у 1977 У. П. Ксяндзоў. Культурны пласт да 0,4 м, часткова разбураны ворывам. У раскопе пл. 60 м$^2$ выяўлены рэшткі агнішча ча-

шападобнай формы дыям. 0,6 м, глыб. 0,3 м.

Знойдзены крамянёвыя прылады працы: сярэднія і бакавыя разцы, канцавыя і авальныя скрабкі, вастрыі, укладышы, скоблі, рэтушаваныя пласціны і адшчэпы, сякеры, нуклеусы.

Датуецца 8—7-м тысячагоддзямі да н. э.

Паселішча-2. За 250 м на ПдУ ад вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Бярэзіна. Адкрыў і абследаваў у 1982 Ксяндзоў. Памер 100×20 м. Культурны пласт пашкоджаны ворывам. На паверхні сабраны крамянёвыя прылады працы: бакавы разец, канцавы скрабок, праколка, нажападобныя пласціны, адшчэпы, аморфныя нуклеусы.

*Літ.:* 619, 621. *У. П. Ксяндзоў.*

**КАРАЛІ́НСКІ ЗА́МАК.** Існаваў у канцы 16—18 ст. ў в. Каралін (цяпер у межах Пінска). Меў форму падоўжанага чатырохвугольніка (75×37×46×75 м) з бастыёнамі на вуглах. Курціны і чатырохвугольныя з брустверамі бастыёны былі вымураваны з каменю. З боку поля бастыёны значна большыя, чым з ПдУ, дзе замак засцерагалі стромкія берагі і воды р. Піна. Унутры валоў ішоў падземны скляпеністы праход выш. 2,1 м, шыр. 90 см. У скляпенні праз кожныя 4 м былі невял. адтуліны шыр. 20 см для доступу паветра і святла. З падземнага праходу можна было трапіць на бастыёны. Уязная мураваная брама замка фланкіравалася агнём з 2 бастыёнаў. Перад замкам быў роў шыр. 9 м з пад'ёмным мостам. Па знешнім краі рова з боку поля стаяла мураваная сцяна, якая дадаткова засланяла подступы да замка. Каб трапіць на замкавы мост, трэба было прайсці праз спец. браму ў гэтай сцяне, пастаўленую пад вуглом і зробленую ў выглядзе захаба. У 2-й пал. 17 ст. замкам валодаў маршалак ВКЛ Ян Дольскі, потым кн. Вішнявецкія. У ліпені 1660 у час аблогі К. з. разбураны рус. войскамі, у 1704 — войскамі караля Карла XII. У пач. 19 ст., паводле сведчання сучасніка, тут яшчэ былі цэлымі 2 бастыёны і курціна «с ветхими каменными одеждами». Цяпер К. з. не існуе.

*Літ.:* 1200. *М. А. Ткачоў.*

**КАРАТКЕ́ВІЧ** Валянціна Браніславаўна (Нікіціна; дзявочае Ваткові ч; 28.6.1934, с. Белаводскае Маскоўскага р-на, Кыргызстан — 28.2.1983), беларускі археолаг, гісторык. Канд. гіст. навук (1965). Скончыла БДУ (1956). Працавала навук. супрацоўнікам у Ашмянскім краязнаўчым і Брэсцкім гісторыка-краязнаўчым музеях, выкладчыкам Брэсцкага педінстытута. У 1969—83 старшы навук. супрацоўнік Ін-та мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. Даследавала старажытнасці паморскай культуры на тэр. Беларусі, займалася вывучэннем гісторыі гарадоў, краязнаўствам. Член рэдкалегіі і адзін з аўтараў «Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі» (т. 1—7, 1984—88). Дзярж. прэмія БССР 1990.

*Тв.:* Памятники поморской культуры в Белоруссии и на Украине // Сов. археология. 1965. № 1; Памятники истории Витебска. Мн., 1975; Памятники истории и культуры. Мн., 1978; Пусть помнят все. Мн., 1979 (разам з Г. Б. Ватковічам); Помнікі Слоніма. Мн., 1983 (разам з А. М. Кулагіным).

*М. М. Казлоўская.*

**КАРА́ТНАЯ ПРО́БА,** проба, якая паказвае на колькаснае ўтрыманне золата ў лігатурным сплаве металу (гл. *Лігатура*).

У аснову пробы пакладзены падзел чыстага металу на 24 вагавыя часткі (адпавядае прынятаму падзелу *маркі* золата на 24 караты). Напр., К. п. 16 паказвае, што ў сплаве 16 частак чыстага золата і 8 нізкароднага металу. Да 1-й чвэрці 16 ст. існаваў падзел карата (фракцыя кёльнскай маркі) на 4 граны, што дазваляла вызначыць пробу з дакладнасцю ў $^1/_{96}$ (≈10,42 *праміле*). Паводле закону Свяшчэннай Рымскай імперыі германскай нацыі 1524, карат падзелены на 12 гранаў, што павялічыла дакладнасць вызначэння пробы да $^1/_{288}$ (≈3,47 праміле). Каб перавесці ў *метрычную пробу*, неабходна К. п. перавесці ў граны ў залежнасці ад колькасці гранаў у караце (4 або 12), падзяліць адпаведна на 96 або 288 і памножыць на 1000 (21 карат 3 граны = $21\times4+3\times1=87:96\times1000=906{,}25$ праміле або $21\times12+3\times1=255:288\times1000=850{,}69$ праміле).



В. Б. Караткевіч.



Гуртавыя арнаменты **карбоўкі** расійскіх манет 18 — пач. 20 ст.



**Карбоўка** на паліваных гаршках і кубках канца 16 — 1-й пал. 17 ст.

**КАРБО́ЎКА,** від арнаменту на керамічным посудзе і на манетах. На керамічны посуд наносілася спец. прыладай — карбам (цыліндрычным ролікам з дрэва, косці ці інш. матэрыялу). Мела выгляд сеткі прамавугольнікаў, ромбаў, шматлікіх зігзагаў, камбінаваных арнаментаў з розных элементаў.

Вырабы посуду чырвонага і карычневага колераў з К. былі найб. пашыраны ў 17 ст. на З Беларусі і выяўлены пры раскопках у Гальшанскім, Крэўскім, Лідскім, Мірскім замках, Гродне і ў нязначнай колькасці на ўсёй тэр. Беларусі.

К. манеты рабілася на яе *гурце* ў выглядзе геам. або раслiннага арнаменту (зоркі, кропкі, рыскі і інш.) для дэкаратыўнага аздаблення і прадухілення фальсіфікацыі манет. Наносілася гурцільным станком (гл. ў арт. *Тэхніка манетнай справы*). Упершыню з'яўляецца на зах.-еўрап. манетах у канцы 17 ст., Расійскай імперыі ў пач. 18 ст., Рэчы Паспалітай у 2-й пал. 18 ст.

*Літ.:* 1537, 1626.

*Н. І. Здановіч, І. І. Сінчук.*

**КА́РГЕР** Міхаіл Канстанцінавіч [17(30).5.1903, Казань — 26.8.1976] археолаг і мастацтвазнавец. Д-р гіст. навук (1959), праф. (1949). Скончыў Петраградскі ун-т (1923). З 1949 заг. кафедры гісторыі мастацтва Ленінградскага ун-та, у 1964—72 заг. Ленінградскага аддзялення Ін-та археалогіі АН СССР. Вывучаў славяна-рус. археалогію і гісторыю старaж.-рус. культуры і мастацтва. З сярэдзіны 1950-х г. пад яго кіраўніцтвам праведзены архіт.-археал. экспедыцыі ў Полацку, Віцебску, Тураве, Навагрудку, Ваўкавыску. Даследаваў: у Полацку — рэшткі храма (1967), жытлы 12 ст. на Верхнім замку (1957), Сафійскі сабор 11 ст. (1964), храм-пахавальню полацкіх епіскапаў Спаса-Ефрасіннеўскага манастыра 12 ст. (1957, 1961—64); помнікі 12 ст.— царкву Благавешчання ў Віцебску (1968), царкву Барыса і Глеба ў Навагрудку (1961—62, 1965), рэшткі храма ў Ваўкавыску (1966). Дзярж. прэмія СССР 1952.

*Тв.:* Новый памятник зодчества XII века в Турове // Краткие сообщения Ин-та археологии АН СССР. М., 1965. Вып. 100; Раскопки храма Бориса и Глеба в Новогрудке // Археологические открытия 1965 года. М., 1966; К вопросу о памятниках зодчества XII в. в Волковыске // Славяне и Русь. М., 1968; К истории полоцкого зодчества XII в.: (Руины вновь открытого храма на Верхнем замке) // Новое в археологии. М., 1972.

*Літ.:* 4916, 527а. *Т. М. Каробушкіна.*

**КАРДО́Н,** курганны могільнік *дрыгавічоў* на левым беразе Дняпра, каля прыстані Кардон Буда-Кашалёўскага р-на. Каля 100 насыпаў. Даследаваў у 1904 Е. Р. Раманаў, раскапаў 16 курганоў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне галавой на З у падкурганных ямах, часам на грунце або ў насыпе, пахаванні адзіночныя, трапляюцца парныя. У жаночых пахаваннях знойдзены драцяныя і трохпацеркавыя скроневыя кольцы, металічныя філіграниыя і шкляныя пацеркі, драцяныя бранзалеты, пярсцёнкі, падвескі і інш. У мужчынскіх пахаваннях рэчаў не было. Могільнік размяшчаўся ў радзіміцка-дрыгавіцкім пагранiччы. Датуецца 12—13 ст.

*Літ.:* 980, 1115, 1340.

*У. У. Багамольнікаў.*

**КАРО́БУШКІНА** Таццяна Мікалаеўна (н. 20.7.1934, в. Кубышка Нялідаўскага р-на Цвярской вобл.), беларускі археолаг. Канд. гіст. навук (1977). Скончыла БДУ (1958). Навук. супрацоўнік Ін-та гісторыі АН Беларусі (з 1958). Даследуе стараж. Полацк, Тураў, Брэст, Мінск, Пінск. Для «Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі» абследавала археал. помнікі Брэсцкага, Жабінкаўскага, Камянецкага, Клімавіцкага, Кобрынскага, Маларыцкага, Пружанскага, Старадарожскага, Хойніцкага р-наў. Упершыню для тэр. Беларусі 10—13 ст. дала характарыстыку прылад працы для апрацоўкі зямлі, уборкі і перапрацоўкі ўраджаю, знойдзеных у ходзе раскопак археолагамі Беларусі, устанавіла час увядзення ў культуру збожжавых раслін і суадносіны іх паміж сабою на працягу стагоддзяў. Вырашыла гал. пытанне земляробства — аб выкарыстанні сістэм земляробства. На падставе даследаванняў курганоў на тэр. Бел. Пабужжа вырашыла пытанне пра этнічны склад насельніцтва гэтага рэгіёна ў 9—13 ст. Аўтар анатаванай бібліяграфіі па археалогіі Беларусі, чацвярцічнай геалогіі і палеагеаграфіі. Адзін з аўтараў «Гісторыі Мінска» (1967), «Нарысаў па археалогіі Беларусі» (ч. 2, 1972), «Беларускай археалогіі» (1987).



М. К. **Каргер.**



Т. М. **Каробушкіна.**

*Тв.:* Земледелие на территории Белоруссии в X—XIII вв. Мн., 1979; Появление упряжных пахотных орудий и их дальнейшее развитие на территории Белоруссии (до XIV в.) // Тез. докл. сов. делегации на IV Междунар. конгрессе слав. археологии. М., 1980; Археология Белоруссии: Библиогр. указ. (1932—1975). Мн., 1988; Население Белорусского Побужья в X—XIII вв. // Тр. V Междунар. конгресса археологов-славистов. Киев, 1988. Т. 2; Сельское население Среднего Побужья IX—XIII вв. (по материалам курганных могильников) (разам з І. І. Салівон) // Сов. археология. 1990. № 3.

*М. М. Чарняўскі.*

**КАРО́МКА,** стаянка ранняга этапу *грэнскай культуры* (12—10 тыс. г. таму назад) каля в. Кісцяні Рагачоўскага р-на. За 4 км на Пн ад вёскі, ва ўрочышчы Каромка. Займае ўчастак 2-й надпоймавай тэрасы правага берага Дняпра пры ўпадзенні ў яго безназоўнага ручая. Вышэй над летнім межанным узроўнем вады ў рацэ 16—17 м. Адкрыў у 1893 В. Я. Данілевіч, абследаванне помніка і збор пад'ёмнага матэрыялу праводзілі К. М. Палікарповіч, У. Дз. Будзько, У. Ф. Ісаенка, І. М. Ціханенкаў, А. Г. Калечыц. У 1972—73, 1990 В. Ф. Капыцін раскапаў 330 м². Культурны пласт 0,3—0,4 м, яго верхняя частка разбурана працяглым разворваннем. Знаходкі трапляюцца ўздоўж броўкі тэрасы працягласцю да 1 км пры шыр. 100—150 м.

Знойдзены крамянёвыя канцавыя, падакруглыя і двайныя скрабкі, рэтушаваныя, двухгранныя, на зломе пласцінак разцы, тронкавыя і асіметрычныя (грэнскі тып) наканечнікі стрэл, сякеркі з перахватам, пласцінкі з прытупленым краем і інш. Побач з імі трапляюцца дробныя, старанна выраблены прылады для апрацоўкі косці, рога, дрэва і скуры. Гэта шматлікія вастры з тонкім рэжучым канцом, невял. праколкі з кароткім лязом, сячэнні пласцін-укладышаў, вырабы з выемкамі, разнастайныя камбінаваныя прылады. Знаходкі шматлікіх прадуктаў расшчаплення крэменю (дробныя асколкі, лускавінкі, адшчэпы, пласціны, нуклеусы) сведчаць пра тое, што апрацоўка крэменю адбывалася на стаянцы.

*Літ.:* 170, 294, 464, 919.

*В. Ф. Капыцін.*

**КАРО́НЧЫК,** народная назва двузлатоўкі (8 грошаў). Намінал узнік у грашовай сістэме Рэчы Паспалітай пры Станіславе Аўгусце Панятоўскім ардынацыяй 10.2.1766 (*лота*

*вая проба* X, *лігатурная маса* 9,35 г). 4 К. адпавядалі *талеру*. Да сярэдзіны 19 ст. захоўваўся як разліковая адзінка ў Любчы і яе ваколіцах. Магчыма, адпавядаў 30 капейкам (2 злотым) у дробных наміналах.

**«КАРОТКІЯ ПАВЕДАМЛЕННІ АБ ДАКЛАДАХ І ПАЛЯВЫХ ДАСЛЕДАВАННЯХ ІНСТЫТУТА АРХЕАЛОГІІ»** («Краткие сообщения о докладах и полевых исследованиях Института археологии», КСИА), зборнік артыкулаў па археалогіі СССР. Выдаецца з 1939 Ін-там археалогіі АН СССР у Маскве (на рус. мове) выпускамі (зборнікамі). Да 1960 наз. «Кароткія паведамленні аб дакладах і палявых даследаваннях Ін-та гісторыі матэрыяльнай культуры». З пач. 1960-х г. кожны выпуск прысвячаецца пэўнаму археал. перыяду: каменнаму веку, жал. веку, сярэднявеччу і інш. Задача выдання — даводзіць да ведама шырокай навук. грамадскасці апошнія дасягненні і адкрыцці сав. археал. навукі.

Вынікі даследаванняў археал. помнікаў Беларусі змешчаны ў арт. Л. В. Аляксеева, І. І. Арцёменкі, Ф. Д. Гурэвіч, К. В. Паўлавай, З. М. Сяргеевай і інш., у т. л. пра гарадзішча Барсукова Горка (1947. № 15), Мінскае замчышча (1952. № 54), Браслаў (1960. № 81), Навагрудак, Мсціслава (1962. № 87), Мсціслаў (1963. № 94), Тураў, Пінск, Навагрудак, Ваўкавыск, курганныя могільнікі Свішчова, Ходасавічы (1963. № 96); неаліт. паселішча Вець (1964. № 97); шахты па здабычы крэменю, могільнік каля Брэста (1965. № 100); Навагрудак (1964. № 99); паселішчы Кусічы, Трасцяніца (1964. № 102); Полацк, Навагрудак, курганны могільнік Глыбаў (1965. № 104); неаліт, паселішча Стрэліца (1966. № 106); грунтавы могільнік у Пінску (1966. № 107); Навагрудак (1967. № 110); могільнік Адвержыцы (1967. № 112); каменныя магілы ў Верхнім Панямонні (1968. № 113); курганны могільнік Багрынава, Навагрудак (1969. № 120); могільнікі Сябровічы (1970. № 123), Велямічы (1971. № 125), Сінчукі, Гарадзілаўка, Чаркасава, Арава (1973. № 135); Навагрудак, гарадзішчы Астрэя, Вaверац, курганныя могільнікі Мольнічы, Суляцічы, Узноснае, Драздова (1974. № 139), Навінка (1975. № 144); Мсціслаў, Навагрудак, Ваўкавыск (1976. № 146); полацкая кафля (1980. № 160); гарадзішчы Бел. Палесся (1980. № 162); палац полацкіх князёў 12 ст., металічныя бранзалеты з Браслава, Віцебска, Ваўкавыска (1981. № 164); курганныя могільнікі Брацянка, Мольнічы, Суляцічы (1981. № 166), Бацвінава (1982. № 171); каменныя могільнікі Клепачы, Мінеўшчына і інш., Гродна, Слонім, Навагрудак, курганныя могільнікі Ігналіна, Сукалі (1989. № 195); курганны могільнік Вензаўшчына (1989. № 198). Адзін з нумароў (201 за 1990) быў прысвечаны праблемам тэорыі і методыкі ў сучаснай археал. навуцы. *Г. В. Штыхаў.*

**КАРПАЎСКІЯ КРЭМЕНЕЗДАБЫЎНЫЯ ШАХТЫ,** археал. помнік неаліту (3-е тысячагоддзе да н. э.) і бронзавага веку (2 — 1-я пал. 1-га тысячагоддзя да н. э.) каля в. Карпаўцы Ваўкавыскага р-на. За 1 км на ПдУ ад в. Карпаўцы, за 1,5 км на У ад в. Навасёлкі на крэйдавых адорвенях. Выявіла і даследавала ў 1967—70 Н. М. Гурына, даследавалі ў 1973 М. М. Чарняўскі, у 1979 В. П. Чамеза. Шахты, блізкія да Краснасельскіх крэменездабыўных шахт. Знойдзены адходы крамянёвай вытворчасці, пашкоджаныя тыповыя гарняцкія інструменты. З-за аддаленасці ад прыбярэжных стаянак і майстэрняў (каля 5 км ад р. Рось) апрацоўка здабытага крэменю і выраб з яго сякер вяліся непасрэдна на тэр. шахтаў. Участкі з шахтамі разбураны крэйдавымі кар'ерамі.

*Літ.:* 284, 1289. *М. М. Чарняўскі.*

**КАРТАГРАФАВАННЕ** ў археалогіі, методыка складання, вычэрчвання, узнаўлення (выдання) і выкарыстання геаграфічных карт з мэтай паведамлення пра дакладнае месцазнаходжанне рухомых і нерухомых помнікаў або распаўсюджанне археал. культур. У вузкім значэнні К.— нанясенне на геаграфічныя карты месцазнаходжання стараж. помнікаў і рэчаў (гл. *Археалагічныя карты*). Звычайна складаюць карты размяшчэння стараж. помнікаў у пэўных рэгіёнах па гіст. эпохах. На тапаграфічныя карты наносяцца ўсе помнікі, вядомыя на пэўным участку мясцовасці. Пры даследаванні помніка здымаюць і «прывязваюць» да мясцовасці яго план. Метад К. археал. знаходак, тыпаў рэчаў, культ. з'яў шырока выкарыстоўваецца для вызначэння арэалаў і лакальных варыянтаў культур, напрамкаў культ. уплываў (па імпарту рэчаў, запазычанняў, ідэй), наяўнасці і ступені культ.-гіст. агульнасці.

*Літ.:* 64, 1122, 1144. *У. Ф. Ісаенка.*

**КАРТКА ЎЛІКУ АРХЕАЛАГІЧНАГА ПОМНІКА,** аператыўны дакумент для арганізацыі ўліку і аховы помніка адпаведнымі ўстановамі. Складаецца ў адпаведнасці з «Адзінай уніфікаванай формай уліку помнікаў гісторыі і культуры», уведзенай у 1972. Асновай для складання дакумента з'яўляецца *пашпарт на помнік гісторыі і культуры*. Картка павінна змяшчаць звесткі пра месцазнаходжанне помніка паводле сучаснага адм.-тэрытарыяльнага падзелу, а таксама назву помніка (па назве найбліжэйшага населенага пункта ці ўрочышча), тыпалагічную прыналежнасць (стаянка, гарадзішча, могільнік, стараж. рэч і інш.), датаванне помніка, характар сучаснага выкарыстання (план ахоўнай зоны, землекарыстальнік), характарыстыку тэхнічнага стану (ацэнка ступені захаванасці, пашкоджанняў), катэгорыю аховы (саюзная, рэспубліканская, мясцовая, наяўнасць ахоўнай зоны, ахоўнага знака, ахоўнага абавязацельства), наяўнасць дакументацыі (пашпарта на помнік, плана, фотаздымкаў, месца захоўвання археал. матэрыялаў). Картка падпісваецца складальнікам і інспектарам па ахове помнікаў, захоўваецца ў Мін-ве культуры і мясц. органах улады.

**КАРЧАГА,** вялікая гліняная пасудзіна з вузкім горлам і валікападобным завяршэннем, звужанай каля-донных часткай і 2 авальнымі вушкамі, што мацаваліся да плечукоў, упрыгожаных рэльефным арнаментам.

Трапляюцца пры раскопках амаль усіх бел. гарадоў у пластах 12—13 ст. і лічацца прывезенымі з таварам з Кіева, дзе ў гэты час К. выраблялі ў вял. колькасці. На К. часам бываюць знакі, літары або цэлыя словы. У Стараж. Русі К. называліся і прывазныя *амфары* — пасудзіны з круглым дном, вузкім невысокім горлам і 2 масіўнымі ручкамі. К. часам выкарыстоўвалі ў якасці своеасаблівых склепаў. Напрыклад, К. з Мазыра была ўкапана па самае вусце ў мацярык побач з пабудовамі 13 ст. Найбольшы дыям. яе тулава 50 см, па баках зафіксаваны кроплі зялёнай палівы. Падобная К. знойдзена пры раскопках у Кіеве.

*Н. І. Здановіч, А. А. Трусаў.*

**КАРЧАК,** культура тыпу Карчак, археал. культура плямён, якія ў 6—7 ст. н. э. жылі на тэр. паўн.-зах. Украіны і паўд. Беларусі (па паўд. прытоках Прыпяці і ад Дняпра да Буга і Днястра); лакальны варыянт *пражскай культуры*. Назва ад с. Карчак Жытомірскай вобл., дзе выяўлена 14 паселішчаў, курганны і грунтавыя могільнікі сярэдзіны 1-га тысячагоддзя н. э. Адкрыў у 1920-я г. С. С. Гамчанка, даследавала ў 1960-я г. І. П. Русанава. У асобную культуру помнікі вылучыў Ю. У. Кухарэнка. Насельніцтва жыло на адкрытых паселішчах у прамавугольных паўзямлянках з печамі-каменкамі. Пахавальны абрад — трупаспаленне ў урнах і пад курганамі. Знойдзены фрагменты слабапрафіляванага ляпнога посуду (гаршкі, патэльні, міскі), некаторыя з іх арнаментаваны па краі венчыка косымі насечкамі ці аздоблены па плечуках ляпным валікам.

*Літ.:* 640, 881, 993, 998, 999.

*В. С. Вяргей.*

**КАРЫТНІЦА,** археал. помнікі каля в. Карытніца Бялыніцкага р-на.

Гарадзішча жал. веку і эпохі феадалізму. Пры ўпадзенні р. Карыткі ў р. Клёву. Вядома з 1838, даследаваў у 1964 Л. Д. Побаль. Памер 90×55 м, выш. над поймай 7—8 м, з боку поля — роў шыр. 4—6 м, глыб. да 0,5 м, па краі вал даўж. да 25 м, выш. да 0,5 м. Знойдзены фрагменты ганчарнага посуду.

Селішча. На Пн ад гарадзішча.

Даўжыня некалькі соцень метраў. Даследаваў Побаль. Выяўлены матэрыялы жал. веку і эпохі феадалізму. Разворваецца.

Курганны могільнік. За 800 м на Пн ад гарадзішча, на правым беразе Клёвы. 26 насыпаў выш. 0,9—3,5 м, дыям. 6—22 м.

Недалёка ад К. вядома больш за 100 курганоў і інш. стараж. помнікаў. Паводле меркавання даследчыка, К. была радавым цэнтрам абшчын, размешчаных на пл. 250—300 км² у басейне верхняга цячэння Клёвы. *Л. Д. Побаль.*

**КАРЭ́БЫ,** група археал. помнікаў у ваколіцах в. Карэбы Дрыбінскага р-на.

Стаянка-1 каменнага веку. За 2 км на З ад вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе левага берага р. Проня, ва ўрочышчы Царкавішча. Адкрыў і даследаваў у 1985 В. Ф. Капыцін, раскапана 9 м². Культурны пласт залягае на глыб. 0,1—0,3 м ад паверхні. Знойдзены прадукты расшчаплення крэменю (нуклеусы, адшчэпы, пласціны), канцавыя скрабкі.

Стаянка-2 *верхнедняпроўскай культуры.* За 1 км на ПдЗ ад вёскі, на першай надпоймавай тэрасе левага берага Проні. Адкрыў у 1985 А. А. Седзін, даследаваў у 1987 Капыцін, раскапана 24 м. Культурны пласт залягае на глыб. 0,2—0,5 м ад паверхні.

Знойдзены шматлікія прадукты расшчаплення крэменю: нуклеусы, пласціны, адшчэпы, дробныя асколкі і лускавінкі, а таксама прылады працы — свідэроідныя наканечнікі стрэл, канцавыя скрабкі з пласцін і адшчэпаў, вуглавыя разцы, вырабы з выемкай, вастрыі. Паводле знойдзеных фрагментаў керамікі можна меркаваць, што пасудзіны мелі слабаадагнуты венчык, арнаментаваны адбіткамі дробназубчастага штампа і падкрэслены радам гарызантальных ямкавых уціскannяў. У якасці дамешку выкарыстоўваўся буйназярністы кварцавы пясок. Матэрыялы раскопак сведчаць пра тое, што фарміраванне верхнедняпроўскай культуры адбывалася на мясц. мезалітычнай аснове.

Стаянка-3 верхнедняпроўскай культуры. За 1,5 км на ПдЗ ад вёскі, на першай надпоймавай тэрасе левага берага Проні. Адкрыў і даследаваў у 1987—91 Капыцін, раскапана 169 м². Культурны пласт залягае на глыб. 0,2—0,5 м ад паверхні.

Знойдзены адна- і двухпляцовачныя нуклеусы, пласціны, адшчэпы, сярэдзінна-вуглавыя разцы, канцавыя скрабкі, у т. л. нуклепадобныя, вастрыі. Фрагменты керамікі з раслінным дамешкам у гліне арнаментаваны ямкавымі ўціскannямі і адбіткамі дробназубчастага штампа. Матэрыялы раскопак, блізкія да знаходак са стаянкі-2, характарызуюць найбольш стараж. этап развіцця неаліту ў Верхнім Падняпроўі.

Курганны могільнік эпохі Кіеўскай Русі. За 1,5 км на З ад вёскі, на левым беразе Проні, ва ўрочышчы Царкавішча. 51 насып выш. 0,3—1,5 м, дыям. 5,5—12 м. Курганы здзірванелыя, параслі лесам, частка з іх разбурана траншэямі Вял. Айчыннай вайны. У 1930 І. А. Сербаў даследаваў 1 курган (на той час іх было 60). Пахавальны абрад — трупапалажэнне галавой на З. Пахаванне знаходзілася на 2 вогнішчах і было абкладзена дубовымі плахамі.

Пахавальны інвентар — бронзавыя падвескі, скроневыя кольцы, пярсцёнкі, дробныя пацеркі і фрагменты ганчарнай пасудзіны з лінейным арнаментам.

*Літ.:* 1079. *В. Ф. Капыцін.*



Гарадзішча **Кастрыца**. Агульны выгляд.

**КАСА́,** ручная прылада для скошвання травы і збожжавых культур. Складаецца з доўгага загнутага ляза, пасаджанага на касцё. Папярэднікам К. лічыцца *касар.*

У 2-й пал. 1-га тысячагоддзя н. э. на тэр. Беларусі з'явілася К.-гарбуша — ударна-рэжучая прылада, якой касілі траву, віку, гарох, грэчку. Яе злёгку загнутае лязо мацавалася да кароткай выгнутай драўлянай ручкі. У Стараж. Русі вядомы паўн. і паўд. тыпы кос. На Беларусі ў 11—13 ст. быў пашыраны паўд. тып з больш кароткім (каля 45 см), але шырокім (4,5—5 см) лязом і кароткім дзяржаннем. К.-гарбушы звычайна знаходзяць у гарадах (Ваўкавыск, Менск, Полацк, Гродна, Друцк, Навагрудак, Брэст, Пінск, Слуцк і інш.), значна радзей — у курганах (Курганне Жлобінскага, Церуха Гомельскага, Радамля Чавускага р-наў і інш.). З 15 ст. стала пашырацца К. з доўгім палатном (лязом) і доўгім кассём, на сярэдзіне якога мацавалася драўляная ручка. У канцы 19 — пач. 20 ст. выкарыстоўвалася ў асноўным К.-літоўка заводскай вытворчасці (часам яе называлі «вілейка», бо выраблялася яна на заводзе ў г. Вілейка).

*Літ.:* 553, 582. *У. У. Багамольнікаў.*

**КАСАЛЯ́ЦКІ МАНЕ́ТНЫ СКАРБ.** Знойдзены каля пас. Касаляцкі Кармянскага р-на ў 1954. Памылкова ў літаратуры месцазнаходжаннем названа в. Ліцвінавічы (месца жыхарства таго, хто знайшоў скарб).

Вядомы 43 або 45 куфіцкіх *дырхемаў* Арабскага халіфата, чаканеных дынастыяй Абасідаў у 749—816. Ухаваны ў канцы 820-х г. Зберагаецца ў Дзярж. гіст. музеі (Масква, 39—41 экз.), Бел. дзярж. музеі (Мінск, 4 экз.): ал-Мансур, манетны двор ал-Басра 760—761 і ар-Рашыд, манетны двор Мадынат ас-Салам 802—803, 807—808, 808—809.

*Літ.:* 1555, 1640.

**КАСА́Р,** старажытная с.-г. прылада працы для расчысткі зямельных участкаў ад кустоў і зразання галінак на корм жывёле. Па прызначэнні набліжаўся да сярпа. Складаўся з загнутага жал. клінка даўж. да 15 см, шыр. да 5 см і доўгага драўлянага дзяржання. К. 13 ст. знойдзены ў Лукомлі і Лагойску.

*Літ.:* 582.

**КАСПА́РАВА** Ксенія Васілеўна (н. 8.12.1929, г. Ленінград), рускі археолаг. Канд. гіст. навук (1982). Скончыла Ленінградскі ун-т (1952). У 1959—64 вучоны сакратар, з 1964 старшы навук. супрацоўнік аддзела археалогіі Усх. Еўропы і Сібіры Эрмітажа (С.-Пецярбург). Вывучае старажытнасці жал. веку, у прыватнасці *зарубінецкай культуры.* Праводзіла археал. даследаванні на Беларусі (раскопкі паселішчаў і могільнікаў *Велямічы, Атвержычы, Рубель* і Рамель Столінскага, *Востраў* Пінскага р-наў), а таксама на тэр. Валынскай, Ровенскай, Хмяльніцкай абл. Украіны. На матэрыялах могільнікаў Велямічы-2 і Атвержычы дэталёва распрацавала храналогію палескага варыянта зарубінецкай культуры, вызначыла, што зарубінецкія старажытнасці існавалі на Палессі да сярэдзіны 1 ст. н. э. Аналізуючы пахавальны абрад і рэчавы матэрыял гэтай культуры, выказала меркаванне, што ў яе фарміраванні прынялі ўдзел носьбіты ясторфскай культуры і *паморскай культуры.*

*Тв.:* Могильник и поселение у дер. Отвержичи // Материалы и исслед. по археологии СССР. М., 1969. № 160; Зарубинецкий могильник Велемичи-II // Археологический сборник Гос. Эрмитажа. Л., 1972. Вып. 14; О верхней хронологической границе зарубинецкой культуры Припятского Полесья // Сов. археология. 1976. № 3; Новые материалы могильника Отвержичи и некоторые вопросы относительной хронологии зарубинецкой культуры Полесья // Археологический сборник Гос. Эрмитажа.

Л., 1976. Вып. 17. *В. С. Вяргей.*

**КАСТРЫЦА,** гарадзішча каля в. Кастрыца Лепельскага р-на. За 1,5 км на ПдЗ ад вёскі, на ўзгорку выш. да 20 м са стромкімі схіламі. Пляцоўка авальная, памер 44×24 м. Вядома пад назвай Царкавішча. Даследавалі ў 1965 Г. В. Штыхаў і К. П. Шут, абследаваў у 1972 А. Р. Мітрафанаў. Культурны пласт у цэнтры пляцоўкі 0,2—0,4 м, па краях 1 м. Мае 3 гарызонты. У ніжнім выяўлены сляды жытлаў слупавой канструкцыі, агнішча з камянёў, рэшткі майстэрні, у якой здабывалі і апрацоўвалі жалеза. Унутры майстэрні, ніжняя частка якой на 0,7—0,8 м паглыблена ў зямлю, выяўлены каменнае кавадла, шлакі і акаліна.

Знойдзены жал. нажы, сярпы, касцяныя праколкі, амулет з мядзведжага ікла, гліняныя праслiцы, тыглі для плаўкі бронзы, каменныя зерняцёркі, тачыльныя камяні, слабапрафіляваныя гаршкі і слоікападобныя пасудзіны *днепра-дзвінскай культуры.* У сярэднім гарызонце былі жал. сякеры, сярпы, рыбалоўныя кручкі, наканечнікі кап'я, бронзавыя падвескі, іголка, шмат фрагментаў пасудзін *банцараўскай культуры.* У верхнім гарызонце, які адносіцца да эпохі Кіеўскай Русі, знойдзены спружынныя нажніцы, зубіла, нажы, тачыльныя брускі, праслiца, каменныя таўкачы, ганчарная кераміка.

*Літ.:* 1340, 1368. *А. Р. Мітрафанаў.*

**КАСТЫКІ,** курганны могільнік каля в. Кастыкі Вілейскага р-на. На ўсх. ускраіне вёскі, на правым беразе р. Вілія. 15 цэлых і 5 часткова пашкоджаных курганоў дыям. 5—14 м, выш. 0,4—1,8 м (пераважаюць дыям. 8—10 м і выш. 1—1,5 м). Вакол большасці курганоў прасочваюцца неглыбокія кругавыя раўкі. У сярэдзіне 19 ст. К. П. Тышкевіч раскапаў 1 курган без пахавання. У 1973 Я. Г. Звяруга даследаваў 7 насыпаў.

Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце галавой на З (з даволі значнымі адхіленнямі). У некаторых курганах пад касцякамі тонкія праслойкі попелу, у нагах стаялі гаршкі. Пахавальны інвентар: жал. нажы, сякера, шыла, іголка, шыйная грыўня, тачыльны камень, гліняныя праслiцы, шыйныя пацеркі, бронзавыя пярсцёнкі. Бронзавыя скроневыя кольцы прадстаўлены 2 тыпамі: пярсцёнкападобнымі (паўтараабаротнымі і самкнутымі), тыповымі для дрыгавічоў, і бранзалетападобнымі завязанымі, характэрнымі для крывічоў. Кераміка ганчарная. Могільнік належаў крывіцка-дрыгавіцкаму насельніцтву, датуецца 11—12 ст.

*Літ.:* 431. *Я. Г. Звяруга.*

**КАСТЭЛЬ** (франц. castel невялікі замак), сярэдневяковы *замак* у выглядзе замкнёнага прамавугольнага комплексу з абарончымі сценамі і вежамі, жылымі карпусамі, храмам і ўнутраным дваром. К. выконвалі ролю рэгіянальных цэнтраў абароны і місіянерства, былі месцам кірмашоў, збору даніны.

Найчасцей К. ўзводзілі каля буйных населеных пунктаў, на мяжы заваяванай тэрыторыі, на гандл. шляхах ці скрыжаваннях стратэгічных дарог. З'яўляліся своеасаблівымі гаспадарча-стратэгічнымі тыламі для крыжацкіх атрадаў, што размяшчаліся ў К. на часовы пастой і папаўненне правіянту. Прататыпы еўрапейскіх К.— стараж.-рымскія ваенныя лагеры і абарончыя збудаванні Блізкага Усходу, якія вядомы з 12 ст. ў Германіі, Даніі, на Пд Скандынавіі, у Прыбалтыцы. На Беларусі ў 1-й пал. 14 ст. пабудаваны *Лідскі замак* і *Крэўскі замак,* блізкія па сваёй планавай кампазіцыі да К.

*Літ.:* 1200, 1500. *М. А. Ткачоў.*

**КАСЦЮКОВІЦКІ КРАЯЗНАЎЧЫ МУЗЕЙ.** Адкрыты ў 1975 у г. Касцюковічы. Пл. экспазіцыйных залаў 222 м², больш за 6,8 тыс. экспанатаў асн. фонду (1991), у т. л. каля 50 археал. знаходак: косці шарсцістага насарога, зуб маманта, прылады працы з крэменю, каменныя свідраваныя і тронкавыя сякеры эпохі бронзы і інш. У нумізматычнай калекцыі каля 600 сярэбраных і медных манет 17—20 ст.



Каралі з **каўры,** бронзавыя пярсцёнак і бранзалет 12 ст. з Полацкага гарадзішча.

**КАСЦЯНЁВА,** гарадзішча каля в. Касцянёва Шчучынскага р-на. На паўд.-ўсх. ускраіне вёскі, на схіле ўзвышанага берага р. Касцянёўка. Пляцоўка круглая, дыям. каля 70 м, абкружана валам выш. 2,5—3 м, шыр. 14—16 м. З У вал перарываецца ўездам, з У і з Пн — сляды рова. Выявіў у 1968 В. В. Сядоў, зрабіў шурфоўку і даследаваў вал у 1975 М. А. Ткачоў, у 1989 даследаваў 100 м² С. А. Піваварчык. Культурны пласт на ПнЗ пляцоўкі 1 м, У і Пд — 0,3—0,5 м.

Выяўлены абпаленыя камяні, частка згарэлай пабудовы, сляды паўзямлянкі прамавугольнай формы, рэшткі печы-каменкі з керамікай 12—13 ст. Знойдзена кераміка 11—13 і 14—16 ст., металічныя вырабы (жал. спражка 11—12 ст., нажы, рэшткі замка), шлак, косці жывёл, манета 16 ст. Раскопкі М. А. Ткачова паказалі, што вал тройчы падсыпалі, ён меў дубовыя ўмацаванні, унутраны схіл у 12 ст. быў забрукаваны. Гарадзішча з'яўлялася адным з паўн. абарончых пунктаў Панямоння, які быў разбураны ў 13 ст. Жыццё на гарадзішчы працягвалася да 16 ст.

*Літ.:* 909, 1054. *С. А. Піваварчык.*

**КАТЭГОРЫЯ** р э ч а ў, 1) група прадметаў, аб'яднаных агульнасцю якіх-небудзь адзнак, напр., К. артэфактаў, эалітаў і інш. 2) Група прадметаў аднаго або мяркуема аднаго функцыянальнага прызначэння, напр., К. наканечнікаў стрэл, нажоў. 3) Адзінка класіфікацыі, асновай якой з'яўляюцца дыскрэтныя ўласцівасці прадметаў, іх матэрыял, напр., К. каменных вырабаў, керамічных вырабаў і інш.

*Літ.:* 250, 537, 1133.

**КАЎРЫ** (інд. kauri), невялікая ракавіна марскога малюска (даўж. 1—2,5 см). У стараж. часы выкарыстоўваліся як упрыгожанні і грашовы сродак у народаў Азіі, Афрыкі, Акіяніі (да пач. 20 ст.), Еўропы.

Як грошы ў Афрыцы вядомы ў 11—12 ст. У 17—18 ст. тэрыторыя іх выкарыстання пашырылася, у сярэдзіне 19 ст. ў Зах. Афрыцы зафіксаваны іх курс: 1 талер = 2500 ракавін, у народаў Індыйскага акіяна 1 рупія = 2500—12 000 К. На Беларусі пры раскопках выяўлены К. ў адзінкавых экземплярах сярод знаходак 12 ст. (Гродзенскі Стары замак, Полацк і інш.), 15—16 ст. (Панямонне), звычайна з адтулінай для нанізвання на шнур. Магчыма, К. выкарыстоўвалі на тэр. Беларусі ў якасці грошай у безманетны перыяд (2-я пал. 11—13 ст.).

**КАЎПАКІ,** курганны могільнік каля в. Каўпакі Гродзенскага р-на. За 1 км на Пд ад вёскі, справа ад дарогі на в. Кругляны. 19 круглых курганоў дыям. 4—8 м, выш. 0,6—1,1 м, адзін прадаўгаваты (9×6 м, выш. 0,8 м). У 1975 Я. М. Звяруга раскапаў 12 курганоў (прадаўгаваты і 11 круглых).

Ва ўсіх курганах адразу пад дзірваном былі вымасткі са шчыльна пакладзеных камянёў розных памераў (найб. буйныя размяшчаліся звычайна па краях вымастак). Прамежкі паміж імі запоўнены гумусавым пяском. Часам паверх асн. вымастак у цэнтры насыпаў меліся невялікія (0,5—2 м дыяметрам) дадатковыя вымасткі з дробных камянёў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце. Пахавальны інвентар бедны: 2 бронзавыя трохпацеркавыя скроневыя кольцы, каля 30 пярсцёнкападобных (паўтараабаротных і несамкнутых) вісочных кольцаў, 5 шкляных бітрапецападобных пацерак, авальнае крэсіва, мініяцюрны нож, абломак сярпа. Керамікі мала, уся ганчарная. Могільнік належаў балцкім плямёнам і датуецца 11—13 ст.

*Літ.:* 436. *Я. Г. Звяруга.*

**КАЎПЕНЬ,** гарадзішча і курганны могільнік каля в. Каўпень Лоеўскага р-на.

Г а р а д з і ш ч а мілаградскай і зарубінецкай культур. За 3 км на З ад вёскі, на правым беразе р. Дняпро, ва ўрочышчы Рудавец. Памер 75×60 м. Умацавана 2 паўкруглымі валамі. Выш. ўнутранага вала 2 м, вонкавага — 1,8 м. Абследавалі ў 1953 Ю. У. Кухарэнка, у

1975 Л. Д. Побаль. Культурны пласт каля 0,3 м.

Курганны могільнік. За 2 км на ПдЗ ад вёскі. У 1890 У. З. Завітневіч даследаваў 18 апошніх напаўразбураных курганоў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце галавою на З.

Знойдзены дробныя пацеркі, бранзалеты, спражкі, паясныя кольцы, крэсіва, нажы, сякеры, наканечнік кап'я, гаршкі.

*Літ.:* 379, 772.

**КА́ФЛЯ** (ад ням. Kachel), керамічны выраб для абліцоўкі і дэкаратыўнага аздаблення печаў (гл. *Кераміка).* Адрозніваецца ад абліцовачных архітэктурных пакрыццяў сістэмай мацавання, якая забяспечвае трываласць К. ў муроўцы печы пры значным перападзе тэмператур і яе лінейных памераў у час нагрэву. На Беларусі К. вядома з пач. 14 ст. Трапіла з Зах. Еўропы, магчыма, з Германіі. Паводле тэхналогіі вытворчасці, канструкцыі, выкарыстання і дэкору яна мае трывалыя гіст. віды. Ранняя К. «гаршковыя» (14—16 ст.), мелі функцыю галаснікоў-каларыфераў, служылі для аблягчэння і мацавання скляпенняў глінабітных печаў. Гаршковыя К. паводле тэхнікі фармоўкі былі ляпныя ці ляпныя, падпраўленыя на ганчарным крузе або поўнасцю адфармаваныя на крузе. Паводле саставу фармовачнай масы — з гліны без дамешкаў, з гліны з дамешкамі жарствы, жвіру, пяску, бітага каменя; паводле памеру — вялікія, сярэднія і малыя; па форме — цыліндрычныя, усечанага конуса, высокія і нізкія; па канфігурацыі вусця — квадратныя, круглыя, трох- або чатырохпялёсткавыя; па тэхналогіі вытворчасці — тэракотавыя, задымленыя, паліваныя, з дэкорам і без яго.

З 15 ст. на змену гаршковай паступова прыйшла «каробчатая кафля». Яна мае вонкавую пласціну, адфармаваную з дапамогай глінянай, драўлянай, гіпсавай або металічнай формы, і прымацаваную з тыльнага боку румпы з дзіркамі для мацавання. Па агульных характэрных рысах каробчатую К. можна класіфікаваць: паводле спосабу вытворчасці — на ручнога вырабу, саматужнага або машыннага, фабрычнага; паводле фармовачнай масы — без дамешкаў, з дамешкамі жвіру, пяску, складаная маса з дамешкамі белай гліны і іншых рэчываў; па форме пласціны і памерах румпы; па канструкцыйным прызначэнні і месцы ў печы — К. палявыя, цокальныя, паясныя, карнізныя, франтонныя, перамычкі, каронкі, гарадкі, балясіны, рашотчатыя дэкаратыўныя картушы, медальёны, дахоўкі; па відах дэкору — плоскія, рэльефныя, гарэльефныя, скульптурныя, прасторавыя; па тэхналогіі вытворчасці — тэракотавыя, ангабаваныя, паліваныя зялёнай («мураўленыя»), бясколернай ці каляровымі празрыстымі палівамі, пакрытыя непразрыстымі каляровымі палівамі — эмалямі, так званыя «кунштоўныя», або «цанінныя» вырабы з выкарыстаннем белых эмалей, з размалёўкай па эмалі (галандскі стыль), мяшаныя тэхнікі, выкарыстанне люстраных пакрыццяў, золата, падпаліўных фарбаў; па тэматыцы дэкаратыўных выяў — геаметрычнага, раслiннага, геаметрычна-раслiннага, з выявамі анімалістыкі, людзей, у т. л. воінаў, коннікаў, партрэтныя, салярныя знакі, сюжэтныя з выявамі на бытавую і гіст. тэматыку, з выявамі геральдыкі, картушаў, кампазіцыі з ужываннем абрэвіятур, надпісаў і лічбаў, рэлігійнай атрыбутыкай і эмстам; па кампазіцыйных сувязях — адзінкавыя самастойныя выявы, рапортныя (дывановыя) альбо поўнасцю падпарадкаваныя адзінаму кампазіцыйнаму прыёму і архіт. стылю.





**Кафля** зялёнай палівы 2-й пал. 16 ст. і 17 ст. з Гродзенскага кляштара базыльян. Раскопкі А. Краўцэвіча.

Вытворчасць К. была развіта ў многіх бел. гарадах, у т. л. Віцебску, Гродне, Івянцы, Капылі, Крычаве, Магілёве, Мінску, Міры, Мсціславе і інш. населеных пунктах. Знойдзеныя ў розных бел. і інш. гарадах, датаваныя прыблізна адным часам, К. даюць уяўленне аб гандл. і культ. сувязях насельніцтва. Бел. кафляры не толькі стваралі свае арыгінальныя творы, але і запазычвалі лепшыя замежныя ўзоры, дапаўняючы іх нацыянальнымі матывамі. Вытворчасць К.— адзін з відаў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва Беларусі, на працягу многіх стагоддзяў была неад'емнай часткай культуры народа. Дзякуючы прыродным якасцям керамічнага матэрыялу, які добра процістаіць хімічным, тэрмічным, фізічным уздзеянням, К. з'яўляецца пастаянным аб'ектам пры даследаваннях архітэктурна-археал. помнікаў, пачынаючы з 14 ст. *У. В. Угрыновіч.*

**КАХАНО́ЎСКІ** Генадзь Аляксандравіч (н. 8.1.1936, в. Дамашы Маладзечанскага р-на), беларускі гісторык, археолаг, краязнавец, фалькларыст, літаратуразнавец. Д-р гіст. навук (1992). Скончыў Маскоўскі педагагічны ін-т (1963).



Кутняя **кафля** 17 ст. з Крэўскага замка.



Паліхромная **кафля** з Магілёва. 17 ст.



Печ для абпальвання **кафлі.** Мінскае замчышча 16 ст.

З 1964 супрацоўнік, намеснік дырэктара, дырэктар Мінскага абл. краязнаўчага музея (г. Маладзечна), у 1981—91 старшы навук. супрацоўнік Ін-та мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. З 1991 старшы навук. супрацоўнік Нацыянальнага навук.-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны. З 1989 старшыня Бел. краязнаўчага т-ва. Даследуе развіццё археалогіі, музейнай справы, пытанні аховы помнікаў на Беларусі. У архівах і музеях адшукаў грамату З. *Даленгі-Хадакоўскага*, археал. карту Магілёўшчыны Е. Р. Раманава, рукапісы У. З. Завітневіча, М. Ф. Кусцінскага, А. П. Сапунова, Г. Х. Татура і інш. З 1959 удзельнічае ў раскопках у Крыме, на Беларусі (пераважна на Міншчыне). Аўтар літаратурна-краязнаўчых нарысаў пра Я. Купалу, М. Багдановіча, А. Гурыновіча, Ф. Тапчэўскага, М. Чарота, гісторыка-эканам. нарысаў «Маладзечна» (1988), «Вілейка» (1974) і інш. Адзін з ініцыятараў і стваральнікаў бел. каляндарных выданняў «Кола дзён», «Каляндар 1991».

*Тв.:* Адчыніся таямніца часу. Мн., 1984; Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI—XIX стст. Мн., 1984; Повязь часоў. Мн., 1985; Беларуская фалькларыстыка: Эпоха феадалізму. Мн., 1989 (разам з Л. А. Малаш, К. А. Цвіркам); Прадвесне навукі. Мн., 1990.



Непаліваная **кафля** з выявай жанчыны з Мазырскага гарадзішча 2-й пал. 16 ст.



Г. А. **Каханоўскі.**



Мірская **кафля.** Дахоўка канца 16 ст.

**КАЦЁЛКІ,** курганны могільнік дрыгавічоў каля в. Кацёлкі Пружанскага р-на. За 1,1 км на ПнУ ад вёскі, у лесе, злева ад дарогі Абруб — Шані. 4 насыпы выш. 0,7—0,9 м, дыям. 12—14 м. Выявіў у 1960 мясц. краязнавец, абследавалі ў 1961 В. В. Сядоў, у 1983 і 1985 Т. М. Каробушкіна. У 1961 члены гіст. гуртка Пружанскай школы № 1 (кіраўнік М. А. Шульман) раскапалі 2 курганы.

Пахавальны абрад — трупапалажэнне на попельна-вугальнай падсыпцы галавой на З. Знойдзеныя ў курганах каваныя цвікі сведчаць пра тое, што нябожчыкі былі пахаваны ў трунах. Знойдзены таксама ганчарны тонкі гаршчок з ручкай, абломкі керамікі, круглае глінянае і біканічнае сланцавае праслiцы, сярэбранае скроневае кольца з S-падобным завіткам на канцы, залачоная шкляная біканічная пацерка. Датуецца 11 ст.

За 800 м на Пд ад могільніка знаходзяцца 2 падоўжаныя курганы выш. 3—3,5 м, даўж. 20 м, шыр. 12 м. *Т. М. Каробушкіна.*



Пахавальны інвентар з курганнага могільніка **Кацёлкі:** сярэбранае скроневае кольца (1), гліняна́е і сланцавае праслiцы (2—3), жалезны цвік (4), шкляная пацерка (5), гліняны гаршчок (6).

**КАЧАРГІ,** стаянка *тыповай грабеньчата-ямкавай керамікі культуры* (сярэдзіна 3-га тысячагоддзя н. э.) каля в. Качаргі Мядзельскага р-на. За 500 м на Пд ад вёскі, на паўд. пясчаным беразе воз. Мястра. Выявіў і абследаваў у 1964 М. М. Чарняўскі. Даўж. 150 м, шыр. 50 м. Культурны пласт разворваецца. Знойдзены невял. скрабкі на адшчэпах, рэтушаваныя адшчэпы і пласцінкі, авальныя рубячыя прылады, а таксама таўстасценная кераміка з дамешкам жарствы, аздобленая глыбокімі ямкамі і адбіткамі шыраказубага грэбеня.

**КАШЧЭЛІЧЫ,** гарадзішча *штрыхаванай керамікі культуры* каля в. Кашчэлічы Валожынскага р-на. На паўд.-зах. ускраіне вёскі, справа ад дарогі Гародзькі — Высокае. Займае ўзгорак выш. 3,5—13 м над узроўнем наваколля. Пляцоўка авальная з ухілам у зах. напрамку (паўн.-зах. частка знішчана кар'ерам), памер 39×42 м, земляныя ўмацаванні адсутнічаюць. Абследавалі ў 1967 А. Р. Мітрафанаў, у 1976 Э. М. Зайкоўскі. У 1986 А. А. Егарэйчанка даследаваў 155 м². Культурны пласт ад 0,2 м каля цэнтра пляцоўкі да 2,2 м каля схілу.

Выяўлены слупавыя ямы дыям. 0,2—0,5 м, глыб. 0,3—0,8 м ад шматкамернага дома, які размяшчаўся на схіле гарадзішча. У раскопе выяўлены 3 секцыі дома, у кожнай з іх былі агнішчы авальнай (памеры 1,3×1,1 м і 1,8××1,2 м) і амаль круглай (дыям. 0,9 м)

формы. З процілеглых бакоў агнішчы былі абкладзены глінянымі валікамі з умазанымі ў іх камянямі. За 1,5 м на ПдЗ ад першага агнішча выяўлена скопішча загартаванай гліны памерам 1×0,8 м, таўшч. 0,3 м з абпаленымі камянямі па краях, унутры скопішча знаходзілася вял. колькасць жал. шлакаў. Магчыма, гэта рэшткі жалезаробчай печы. Гарадзішча пачало функцыяніраваць у канцы 1 ст. да н. э.— пач. 1 ст. н. э. У 1—2 ст. культурны пласт разам з мацерыковай глебай былі скінуты на схілы і перакрыты пластом гліны і жвіру. На трэцім этапе (2—3 ст.) пляцоўка яшчэ больш павялічана, яе



Гарадзішча **Кашчэлічы.**

краі ўмацаваны пластом гліны 0,5 м і камянямі. Сярод фрагментаў ляпной керамікі пераважалі штрыхаваныя. Найб. раннімі былі слоікавыя і слабапрафіляваныя пасудзіны, самымі шматлікімі — рабрыстыя гаршкі, частка якіх арнаментавана ў выглядзе зашчыпаў, ямкавых уціскванняў і насечак па рабры або наразных ліній на венчыку. У канцы функцыяніравання гарадзішча паявіліся прафіляваныя пасудзіны, якія ўтварыліся ад рабрыстых шляхам згладжвання рабра. Для позняй стадыі характэрны гладкасценны слоікавы, рабрысты і прафіляваны посуд. Ёсць неарнаментаваная шурпатая і паліваная кераміка (рабрыстая і прафіляваная), а таксама глянцаваныя міскі, характэрныя для зарубінецкай культуры. Знойдзены жал. нажы для жніва, цяслападобныя вырабы, нож з прамой спінкай, шылы, наканечнік утулкавага дроціка з пяром падоўжана-ромбападобнай формы, посахападобныя шпількі, кольца, 2 гліняныя пацеркі, бронзавае скроневае кольца з разамкнёнымі канцамі, касцяныя праколкі, накладка з цыркульным арнаментам, незакончанае дзяржанне і шпулепадобны выраб, гліняныя прасліцы ў выглядзе плоскага кружка, арнаментаваныя наразным, кропкавым або камбінаваным узорам, гліняныя грузікі дзякоўскага тыпу грыбападобнай формы з насечкамі па краі шляпкі, каменныя зерняцёркі і фрагмент сякеры. *А. А. Егарэйчанка.*

**КВА́РТА** (ад лац. quarta чвэрць), $^1/_4$, пасудзіна і адначасова мера вадкасці. 1) К. як адзінка вымярэння вадкіх рэчываў у сістэме мер ВКЛ да 1766 раўнялася $^1/_4$ гарца (адзінка вымярэння сыпкіх рэчываў у ВКЛ, у якую ўмяшчалася 3,28 л вадкасці). К. ў той час была роўнай 0,82 л. У 1766 сойм зацвердзіў новую меру гарца — малы (шынковы), роўны 2,8237 л (адпаведна К. пачала ўмяшчаць 0,70577 л) і ў 2 разы большы — вялікі (цэхавы), роўны 5,6474 л.

2) Закрытая пасудзіна (бутэлька) з прамавугольным ці квадратным у плане донцам, завершаная кароткай шыйкай з вузкім рыльцам.

На тэр. Беларусі К. знойдзены археолагамі ў пластах 13 ст. ў Навагрудку і в. Збароў Рагачоўскага р-на, 14 ст.— на Лідскім замку, 16 ст.— у Лагойску, 17 ст.— у Мінску, Магілёве і інш. На тэр Украіны і Расіі бутэлькі падобнай формы раней 17 ст. невядомы. Паводле бел. мытнага інвентара 1605, праз Гродна везлі ў Польшчу менавіта «кварты», а не віно, воцат ці алей аб'ёмам з кварту. У даным выпадку назва паходзіць ад лац. «quarte» — чатырохбаковы.

*Літ.:* 246, 563, 1396, 1398, 1483.
*М. М. Яніцкая.*

**КВА́РТНІК** (польск. kwartnik чвэрць), польская сярэбраная манета, роўная *паўгрошу,* $^1/_{96}$ *грыўні польскай.*

Чаканіўся з 13 ст., у 14—16 ст. быў некалькіх разнавіднасцей: сілезскі (*лігатурная маса* 1,7, упамінаецца каля 1294 і да 1325—30), кракаўскі (маса 1,6 г, 1337—1403), львоўскі, або рускі (маса 1,6 г, 1340—79), паморскі (маса 0,46 г, чаканіўся ў Шчэціне, пазней у інш. гарадах Зах. Памор'я з 1408 і да 16 ст.). З канца 14 ст. адпавядаў 3 *дэнарыям* і называўся тэрнарыем, траяком.

*Літ.:* 595, 1693.

**КВАРЦЫ́Т,** рэгіянальна-метамарфізаваная горная парода светла-шэрага колеру, складзеная ў асноўным з зярнят кварцу. У складзе К. сустракаюцца і інш. мінералы, па якіх вылучаюць іх разнавіднасці (слюдзістыя, рогападманкавыя, гранатавыя і інш.).

Утвараўся з кварцавых пясчанікаў ва ўмовах іх рэгіянальнага метамарфізму. Сустракаецца ў раннеархейскіх метамарфічных утварэннях крышталічнага масіву. Характарызуецца высокай вогнетрываласцю (1710—1770 °С), механічнай трываласцю (супраціўленне сцісканню 1000—4550 кгс/см²), лёгка паддаецца апрацоўцы. Першабытны чалавек на працягу ўсяго каменнага веку выкарыстоўваў К. у якасці сыравіны для вырабу прылад працы. На Беларусі ў эпоху каменнага веку К. як сыравіна займаў другое месца пасля крэменю. З яго выраблялі сякеры, скрабкі, разцы, праколкі, скоблі, пласціны і інш.
*У. П. Ксяндзоў.*

**КВІТА́ЦЫЯ,** к в і т а ц э я, к в і т, пазыковае пісьмовае абавязацельства, якое фіксавала канкрэтную грашовую суму і ўмовы яе пазыкі. У бел. дакументах К. упершыню ўпамінаецца пад 16.7.1503 (Віцебск), апошні раз — 20.3.1676 (Полацк).



Касцяныя вырабы з гарадзішча **Кашчэлічы.**



Жалезныя прылады працы і зброя з гарадзішча **Кашчэлічы.**

**КЕ́ЛІХ,** посуд для піцця. Складаецца з чашы (чары, кубачка) і стаяна (стапы і ножкі). Вырабляюць з металу, каштоўных і паўкаштоўных камянёў, шкла, маёлікі, фарфору, фаянсу, гліны, дрэва, рога, косці і інш. К. бываюць літургічныя і свецкія. Літургічныя ўжываюцца ў літургіі хрысціянскага культу: у каталіцкім і уніяцкім веравызнанні называецца К. м ш а л ь н ы, у праваслаўным — п а ц і р. Вырабляюць іх пераважна з металаў, часцей каштоўных.

Пачынаючы з сярэднявечча металіч-

ныя літургічныя К. багата аздаблялі каляровымі эмалямі, каштоўнымі камянямі, літымі і чаканнымі рэльефнымі і скульптурнымі элементамі, гравіроўкамі выяў евангелістаў. Сустракаюцца чашы паўсферычныя, канічныя, цюльпанападобныя (з адагнутым вонкі венчыкам), звонападобныя і інш. Стопы бываюць круглыя, шматбаковыя, пялёсткавыя, плоскія, пукатыя, купалападобныя, ножкі шматгранныя, капліцападобныя (характэрныя для часоў готыкі), авальныя, аваідальныя, грушападобныя, балясінападобныя і інш. На Беларусі вядомы і літургічныя, і свецкія К., пра што сведчаць шматлікія археал. знаходкі цэлых К. або іх фрагментаў. Шкляныя літургічныя К. выраблялі ў 12—13 ст. у Гродне, Полацку, Навагрудку, у 17 ст.— у Мсціславе, Мінску, Гродне. Металічныя літургічныя К. ювеліры Беларусі выраблялі з часоў сярэднявечча. Захаваліся літургічныя К. 16 ст., выраблены ў Ружанах і Навагрудку, 17 ст.— Ружанах, Брэсце, Дзісне, Слуцку, 18 ст.— Ружанах, Давыд-Гарадку і інш. К. свецкія з тэракоты і серабра пад назвамі кілік і кантарас (кожны меў пэўную форму) ужываліся ў Стараж. Грэцыі і Рыме. Пазней у Рымскай імперыі былі пашыраны шкляныя К. на нізеньких паддонах. Шкляныя К., аздобленыя жывапісам на ўзор сірыйскіх 12—16 ст., пачалі выраблядь у Венецыі з 15 ст., дзе ў 16 ст. сфарміраваўся вядомы на ўвесь свет венецыянскі К. з высокай ножкай, багата аздобленай шкляной ажурнай пластыкай. Так зв. «крылатыя» шкляныя К. выраблялі з 17 ст. ў Нідэрландах. У Германіі і Галандыі ў 17 ст. сфарміраваўся тып прысадзістага К. для рэйнскага віна, т. зв. ромер. У канцы 17 ст. ў Чэхіі ўзнік барочны, манументальны па прапорцыях шкляны К., аздоблены шліфоўкай і нізкарэльефнай разьбой. Звычайна ён меў вечка, выразную пластыку ножкі, утворанай з некалькіх аб'ёмаў, круглую пукатую або пляскатую стапу. У канцы 18 ст. яго чаша набыла класіцыстычную аваідальную форму, накрыўкі сталі шпілепадобныя, стопы — квадратныя.

Шкляныя свецкія К. на Беларусі выраблялі з 16 ст. ў Гродне і яго ваколіцах, у Мінску, Мсціславе, Шыдлаўцы (цяпер в. Шылавічы Смаргонскага р-на). Вытворчасць барочных К., накшталт чэшскіх, дасягнула росквіту на шкляных мануфактурах кн. Радзівілаў з 1717 у в. Налібокі (цяпер Стаўбцоўскі р-н), з 1740-х г.— у мястэчку Урэчча (Любанскі р-н). З 2-й пал. 18 ст. вытворчасць шкляных барочных К., у т. л. і ў форме ромераў, арганізаваў у Гродне А. Тызенгаўз.

*Літ.:* 354, 520, 1396, 1397, 1398.

*М. М. Яніцкая.*

**КЕ́ЛЬМА,** кельня (ням. Kelle), прылада муляра ці тынкоўшчыка ў выглядзе трохвугольнай ці лістападобнай лапаткі для набірання і нанясення рошчыны на мур. Старажытныя К. мелі форму дзіды, яе выкоўвалі, як правіла, з аднаго кавалка металу. Найб. старажытная К. 11 ст. знойдзена ў час рэстаўрацыі Наўгародскай Сафіі. На Беларусі К. 12 ст. знойдзена А. А. Трусавым у час раскопак (1990) на тэр. Бельчыцкага манастыра ў Полацку. Памеры яе працоўнай пласціны: даўж. каля 30 см, шыр. каля 12 см. 2 К. 16—17 ст. знойдзены ў *Мядзельскім замку* М. А. Ткачовым і *Гродзенскім старым замку* (раскопкі Трусава і Ткачова).

**КЕЛЬТ** (ад позналац. celtis долата), старажытная сякерападобная прылада працы, у якой утулка размяшчалася ў абушковай частцы перпендыкулярна да ляза; дзяржанне каленчатае. Выраблялся з бронзы і жалеза. У Еўропе К. пашырыліся з 2-га тысячагоддзя да н. э.

На тэр. Беларусі найб. раннія К. адносяцца да т. зв. меларскага тыпу і датуюцца 1-й трэццю 1-га тысячагоддзя да н. э. Яны маюць круглаватае вушка недалёка ад краю ўтулкі, некаторыя з іх — гарызантальныя валікі на ўзроўні вушка і зігзагападобны арнамент на абушковай частцы. Выяўлены выпадкова каля вёсак Курган Мінскага, Смалькоўская Буда Касцюковіцкага, Прудзішча Смалявіцкага р-наў, пад Мінскам і інш. У раннелатэнскі час (5—3 ст. да н. э.) у Сярэдняй Еўропе ўпершыню паявіліся жалезныя К. з прамавугольнай утулкай. На тэр. Беларусі яны вядомы ў плямён мілаградскай культуры (гарадзішча *Чаплін* Лоеўскага р-на). У канцы 1-га тысячагоддзя да н. э.— пач. 1-га тысячагоддзя н. э. падобныя К., але з больш вузкім тулавам, былі пашыраны ў плямён *зарубінецкай культуры* (іх знаходкі вядомы ў закрытых комплексах могільніка Чаплін). Ад зарубінцаў К. трапілі ў паўд. раёны *штрыхаванай керамікі культуры* (гарадзішча *Івань* Слуцкага р-на і Слуцк). Самы паўн. пункт, дзе знойдзены падобныя К.,— гарадзішча каля в. Гарадзішча Мядзельскага р-на. Пасля 1 ст. н. э. К. выходзяць з ужытку.

*Літ.:* 355. *А. А. Егарэйчанка.*



**Кельмы** 12 ст. з Полацка і 15 ст. з Гродна.



Жалезны **кельт** 6—1 ст. да н. э. з гарадзішча Пятровічы Бабруйскага р-на.

**КЕ́ЛЬТАЎ КУЛЬТУ́РА,** гл. *Латэнская культура.*

**КЕНАТА́Ф** (ад грэч. kenotáphion пустая магіла), магіла без пахавання. К. рабілі многія народы свету (Стараж. Грэцыі, Рыма, Егіпта, Сярэдняй Азіі і інш.) у тым выпадку, калі нябожчыка, напр., памерлага на чужыне, нельга было пахаваць. Гэты звычай быў звязаны з разуменнем, што душы памерлых, якія не маюць магіл, не знаходзяць заспакаення. К. сустракаюцца пры раскопках стараж. могільнікаў на тэр. Беларусі.

**КЕРА́МІКА** (грэч. kéramos гліна), вырабы з прыродных глін і іх сумесей з мінеральнымі і арганічнымі дамешкамі, абпаленыя да каменепадобнага стану. Паводле прызначэння К. падзяляецца на посуд (сталовы, кухонны, тарны і інш.), будаўнічыя вырабы (плітка, цэгла, *дахоўка, кафля*), рэчы мастацтва або культу (дэкаратыўныя вазы, статуэткі, фігуркі, барэльефы, пахавальныя урны) і інш. Па гатунках гліны К. падзяляюць на звычайную (з афарбаванай, ажалезненай гліны) і фарфора-фаянсавую (з белай гліны — кааліну); па дамешках у гліняное цеста — на тэракотавую (з чыстай чырванаватай гліны), з арганічнай (расліннай) дамешкай, з тоўчанымі ракавінамі, пяском (кварцам), жарствой (тоўчаным каменем), крывавікам (балотнай рудой), шамотам (раздробненымі кавалкамі посуду); на фарфоравую (з дамешкай у каалін кварцу, мармуру, мелу), фаянсавую (з дамешкай гіпсу) і інш. Стараж. К. змяшчае ў сабе тэхналагічную, храналагічную (стадыяльную), тэрытарыяльную, культурна-археалагічную інфармацыю. Паводле складу фармовачнага цеста, рэжыму абпальвання нярэдка можна вызначыць час стварэння керамічнай рэчы. Тыпы, формы і арнаментацыя гліняных вырабаў (найперш посуду) з'яўляюцца асноўнымі вызначальнымі прыкметамі пэўнай *археалагічнай культуры*, а часам і этнічнай прыналежнасці. Паводле спосабу вытворчасці К. падзяляюць на ляпную (выробленую рукамі) і ганчарную (зробленую на *ганчарным крузе*). Па апрацоўцы паверхні керамічны посуд бывае гладкасценны, з адбіткамі шнура (вяроўкі), з расчосамі грабянцом, шурпаты, штрыхаваны, храпкаваты (абляпаны), тэкстыльны (з адбіткамі тканіны), глянцаваны, паліраваны, маёлікавы (пакрыты глазурай) і інш.

Найбольш старажытныя керамічныя вырабы выяўлены на верхнепалеалітычнай стаянцы Дольне-Вестаніцы ў Маравіі (Чэхія). Вытворчасць глінянага посуду пачалася 8—6 тыс. г. да н. э. ў Пярэдняй

Азіі (Месапатамія), на Блізкім Усходзе і ў Інданезіі. У Еўропе найбольш старажытны посуд (6—5,8 тыс. г. да н. э.) знойдзены на Балканскім паўвостраве (Македонія, Балгарыя). Дунайскія плямёны *лінейна-стужкавай керамікі культуры,* апрача разнастайных гаршкоў, выраблялі фігуркі людзей і жывёл. У 5—4-м тысячагоддзях да н. э. вытворчасць К. стала вядома насельніцтву Валыні, з канца 5-га тысячагоддзя да н. э.— плямёнам *нёманскай культуры* (ПдЗ Беларусі), у 4-м тысячагоддзі да н. э. дасягнула Прыбалтыкі і Падзвіння. Па наяўнасці архаічнай К. ў лясной паласе Еўропы вызначаецца пачатак эпохі неаліту. Для стараж. посуду характэрна выкарыстанне раслінных дамешкаў у цесце гліны, якія пры t 300—400 °С часткова выгаралі (цьмяны асяродак на зломе чарапка сведчыць, што раслінныя дамешкі выгаралі не поўнасцю). Абпал посуду на адкрытым вогнішчы быў слабы, пры t 500—600 °С узнікаў аксід жалеза, што афарбоўваў паверхню ў чырванаваты колер. У К., выяўленай на стаянках балтыйскага басейна, асн. дамешкамі ў цесце былі тоўчаныя ракавіны, якія пры абпале таксама выгаралі. У познім неаліце (3-е тысячагоддзе да н. э.) абпал гліняных вырабаў сталі рабіць у спец. ямах або прымітыўных адкрытых горнах пры t 750—800 °С. Пачалося выкарыстанне мінеральных (пясок, жарства) дамешкаў у цесце гліны, дзякуючы чаму сценкі пасудзін сталі больш шчыльныя, трывалыя і вогнеўстойлівыя.

На тэр. Беларусі самай пашыранай формай неалітычнага посуду былі шырока адкрытыя вастрадонныя гаршкі з тоўстымі сценкамі і слабаразвітым венчыкам. Фармавалі посуд са стужак кальцавым, у сярэднім неаліце — тарцовым налепам ці бакавым прылепам. Верагодна, што фармавалі яго на дошцы (ці камені) у перавернутым выглядзе, пачынаючы ад верху да донца. Адбіткі пальцаў на посудзе сведчаць, што выраблялі яго пераважна жанчыны. Амаль уся тэр. Беларусі (Падняпроў'е, басейн Прыпяці, частка Паазер'я і інш.) уваходзіла ў велізарную этнакультурную вобласць грабеньчатай і накольчатай керамікі, якая названа так з-за перавагі ў арнаментацыі посуду ямачных наколаў і адбіткаў грэбеня (гл. *Верхнедняпроўская культура, Днепра-данецкая культура, Нарвенская культура).* Арнаментацыя К. была вельмі разнастайнай. Асн. яе элементы — адбіткі грэбеня, наколы і лініі. Круглыя ямкі ў 1 ці 2 рады наносіліся толькі пад венчыкам. Адбіткі грэбеня і наколы ўтваралі разнастайныя геаметрычныя ўзоры, яны зводзіліся да 3 асн. матываў: гарызантальна-лінейнага (стужкі апяразвалі пасудзіну), ёлачна-дыяганальнага (тыя ж элементы ўтваралі косыя лініі, што часам знаходзіліся пад вуглом адна да адной), падпрамавугольных ці трохвугольных палёў (зон), пакрытых наколамі ці адбіткам грэбеня (складанагеаметрычны арнамент). Падобную К. выраблялі папярэднікі старажытных індаеўрапейцаў. У бронзавым веку ў цеста сталі дадаваць неарганічныя дамешкі, з'явіліся кругладонныя гаршкі з прыплясканым ці плоскім донцам. Іх, відаць, таксама фармавалі ў тэхніцы папярэдніх эпох. К. *сярэднедняпроўскай культуры* (паўд.-ўсх. Беларусь і паўн. Украіна) з дамешкамі дробназярністага пяску і кварцу. Паверхня посуду добра загладжана або носіць сляды тонкай штрыхоўкі. Абпалены посуд не раўнамерна, пра што сведчаць цёмныя плямы на яго паверхні. Па прызначэнні падзяляецца на гаршкі, міскі, кубкі і келіхі. Для ранняга этапу найб. характэрны гаршкі з шарападобным тулавам, круглым ці плоскім дном і кароткай адагнутай вонкі шыйкай. Для позняга этапу характэрны гаршкі з акруглым ці плоскім дном, амаль шарападобным кароткім тулавам і вельмі высокай адагнутай вонкі шыйкай. Пашыранымі былі пасудзіны з выцягнута-акруглым тулавам, акруглым ці плоскім дном і кароткай шыйкай, з шарападобным прыплясканым тулавам і кароткай шыйкай (выяўлены ў пахаваннях позняга этапу), невысокія адкрытыя пласкадонныя з акруглымі плечукамі і кароткай шыйкай, высокія пласкадонныя з закругленымі плечукамі і адагнутай вонкі шыйкай (у пахаваннях ранняга і позняга этапаў), пласкадонныя таўстасценныя з пукатым тулавам і адагнутай вонкі шыйкай (на селішчах позняга этапу), звонападобныя з вуглаватымі нізкімі плечукамі і шырокімі краямі прамой ці адагнутай вонкі шыйкай (характэрны для позняга этапу). Плямёны сярэднедняпроўскай культуры ўваходзілі ў склад этнакультурнай вобласці, насельніцтва якой выраблял шнуравую кераміку (гл. *Шнуравой керамікі культуры*) і лічыцца старажытнаіндаеўрапейскім.



Да арт. **Кераміка.** Донцы неалітычных пасудзін з паселішчаў каля в. Юравічы Калінкавіцкага р-на.

К. *сосніцкай культуры* (басейн Дзясны, Вярхняга Дняпра і Ніжняй Прыпяці) прадстаўлена высокімі пласкадоннымі гаршкамі з слаба выпуклым тулавам і адагнутым венчыкам, краі якога патоўшчаны і коса зрэзаны. Іх сценкі чырвонага і жоўтага колеру, у гліне дамешак пяску. Пасудзіны добра абпалены, звонку загладжаны, як правіла, арнаментаваны, іншы раз па ўсёй паверхні. Арнамент вельмі разнастайны: адбіткі тоўстага і тонкага шнура, у выглядзе пацерак (калючага дроту), кароткія насечкі, неглыбокія ямкі, наразныя лініі, зубчасты і лінейны штампы і інш. Элементы арнаменту ўтвараюць гарызантальныя рады, хвалепадобныя кампазіцыі, заштрыхаваныя трохвугольнікі, што сведчыць пра паходжанне сосніцкай культуры ад сярэднедняпроўскай.

У жалезным веку ў фармовачную масу найчасцей дамешвалі жарству ці буйназярністы пясок, посуд фармавалі стужкава-кальцавым спосабам на спецыяльнай цвёрдай падстаўцы, падкладаючы на яе траву, салому, грубую тканіну, найчасцей

падсыпалі жарству ці пясок. Спачатку выбівалі ці выціскалі донца, потым нарошчвалі сценкі. А. А. Бобрынскі лічыць, што ў плямён мілаградскай, юхнаўскай і днепра-дзвінскай культур пераважаў спосаб «ласкутнага налепу», які часам спалучаўся з іншымі спосабамі фармавання. Абпальванне рабілі ў скляпеністых горнах, дзе тэмпература дасягала 1000 °C, калі мінеральныя дамешкі пачыналі плавіцца, а пазней і 1200—1400 °C, пры якой адбывалася іх крышталізацыя і чарапок набываў «звонкасць». Асартымент посуду з цягам часу ўзбагачаўся, выпрацоўваліся разнастайныя па тэр. сучасных Гомельскай, Магілёўскай, У Брэсцкай, Пд Мінскай абласцей, Пн Украіны на У ад Гарыні) пераважалі яйца- або шарападобныя гаршкі і глыбокія міскі. Частка пасудзін мае невысокую шыйку і прамы ці адагнуты вонкі венчык, частка — без венчыка, з прамым ці загнутым унутр краем. Для ранніх этапаў гэтай культуры характэрны падоўжаныя яйцападобныя пасудзіны і пасудзіны з плоскім днішчам. Пазней яны набылі больш акруглыя формы.

Характэрная рыса посуду *штрыхаванай керамікі культуры* (цэнтр. Беларусь і ўсх. Літва) — яго своепрамым, увагнутым і злёгку адагнутым венчыкам, конусападобным і выпуклым тулавам і гладкасценныя або штрыхаваныя гаршкі з прамым або адагнутым венчыкам, кароткай шыйкай, апушчаным або прыўзнятым плечуком і выпуклым тулавам, плоскім ці акруглым дном. На познім этапе — штрыхаваныя і гладкасценныя рабрыстыя і слабапрафіляваныя гаршкі і пасудзіны слоікападобныя. Для плямён *днепра-дзвінскай культуры* (Верхняе Падняпроўе і Сярэдняе Падзвінне) характэрны



Да арт. **Кераміка.** Посуд сярэднедняпроўскай культуры з могільніка ва ўрочышчы Страліца каля в. Рудня Шлягіна Веткаўскага р-на. 2-е тысячагоддзе да н. э.



**Кераміка** культуры шнуравой керамікі Палесся з паселішча Загорыны Мазырскага р-на.



Да арт. **Кераміка.** Гліняны посуд мілаградскай культуры з гарадзішча Ліскі (Рэчыцкі р-н).

гладкасценны посуд слоікападобных форм з грубай шышкаватай паверхняй, арнаментаваны скразнымі адтулінамі і слабапрафіляваны з ямкавымі ўціскаяннямі ў верхняй частцы. Плямёны *паморскай культуры* (паўд.-зах. Беларусь і паўн.-зах. Украіна, усх. Польшча) выраблялі грубаляпныя гаршкі з шышкаватай, шурпатай паверхняй з дамешкамі ў цесце гліны пяску і жарствы, глянцаваныя збаны, міскі, вазападобныя пасудзіны, кубкі, накрыўкі карычневага і чорнага колеру і інш. К. *зарубінецкай культуры* (Верхняе і Сярэдняе Падняпроўе) прадстаўлена трыма ўстойлівымі формамі ляпнога посуду: высокімі гаршкамі ці жбанамі сярэдняга памеру, міскамі, невялікімі падобнымі да кубкаў пасудзінамі з ручкамі. Значная частка посуду з глянцаванай паверхняй. Гаршкі маюць адагнутыя вонкі венчыкі, яйцападобнае тулава і вузкае плоскае дно. На некаторых пасудзінах ёсць наляпны валік з зашчыпамі, які апяразвае найбольш шыро-

форме гаршкі, слоікападобныя гладкасценныя і штрыхаваныя пасудзіны. У К. *мілаградскай культуры* (Верхняе і Сярэдняе Падняпроўе: асаблівая арнаментацыя, зробленая пучком саломы ці травы па ўсёй яшчэ не прасушанай паверхні. Пераважалі слоікападобныя пасудзіны з

11. Зак. 223

кую іх частку, насечкі, зашчыпы або ямачкі па краі венчыка. Упрыгожанні часцей сустракаюцца на вялікіх пасудзінах, якія служылі для сховішча прыпасаў і складалі частку інтэр'ера жытлаў. Міскі, як правіла, дасканала глянцаваліся, але іх форма была амаль аднастайнай. Для рубяжа і пачатку нашай эры характэрны рабрыстыя міскі. У гэты час з гліны пачалі вырабляць рыбалоўныя грузікі, праслíцы, пацеркі, тыглі і льячкі (для плаўлення і разліву бронзы).

кладзена ў аснову класіфікацыі керамічных помнікаў *пражскай культуры* на тэр. Беларусі.

Калочынская К. з дамешкаю ў цесце жарствы абпалена нераўнамерна. Посуд сярэдзіны 1-га тысячагоддзя н. э. прадстаўлены двума тыпамі: амаль непрафіляваныя гаршкі падоўжанай слоікападобнай формы без арнаменту і падоўжанабіканічнай формы. Некаторыя пасудзіны ўпрыгожаны наляпным гарызантальным валікам з косымі насечкамі.

У К. *банцараўскай культуры* (цэнтр. Беларусь) вылучаюць 6 асн. тыпаў ляпнога посуду: слабапрафі-



**Кераміка** 12—13 ст. Амфаркі з Копысі (на першым плане) і збан з Лукомля.

Славянская К. пражскага тыпу (Усх. Еўропа ад Эльбы і Одэра на З, да Дняпра на У, ад Віслы і Прыпяці на Пн, да Дуная на Пд) на тэр. Беларусі прадстаўлена ляпнымі пасудзінамі карычневага колеру, з дамешкаю пяску і жарствы ў цесце, злёгку загладжанай паверхняй. К. аднастайнай формы: слаба выражаныя плечукі і невысокі, злёгку адагнуты венчык; невялікія круглыя патэльні з нізкім борцікам. На познім этапе сустракаюцца пасудзіны, арнаментаваныя па краі венчыка насечкамі ці ямкамі ад пальца. Назіраецца эвалюцыя ад посуду з амаль вертыкальным кароткім венчыкам да посуду з больш адагнутым венчыкам і падоўжанай шыйкай. Такая К. мае шмат агульнага з больш познім посудам роменска-боршаўскага тыпу (8—9 ст.). К. з гарадзішча і селішча *Хатомель* пафіляваны, цюльпанападобны, слоікападобны, рабрысты, цыліндрычны і акруглабокі. У К. *доўгіх курганоў* (Пн Беларусі) пераважаюць гаршкаі міскападобныя формы — вышыня пасудзіны меншая за яе найбольшы дыяметр. У цесце вялікая колькасць дрэнна размяшаных жарствы і пяску. Абпал недасканалы, а таму посуд не трывалы. У К. полацкіх крывічоў 8 — пач. 10 ст. вылучаюць 3 тыпы: гаршкі, патэльні, міскі. Гаршкі маюць прамы ці ледзь адагнуты верхні край, выразныя плечукі, што іх адрознівае ад слабапрафіляванага калочынскага посуду і цюльпанападобнага банцараўскай культуры. Зрэдку сустракаюцца пасудзіны, арнаментаваныя па краі зашчыпамі ці насечкамі. Як правіла, гэта нізкія прысадзістыя гаршкі, найбольшае расшырэнне іх тулава прыпадае на верхнюю частку. Такая К. непасрэдна пераходзіла ў раннеганчарную.

Спосаб вырабу посуду на ганчарным крузе відаць узнік у Стараж. Грэцыі ў 6—5 ст. да н. э. У перыяд класічнага элінізму К. абпальвалі ў вялікіх двухкамерных печках. Абпаленую цэглу і дахоўку ў Грэцыі выкарыстоўвалі пры домабудаўніцтве. Праз 2 стагоддзі ганчарны спосаб вырабу посуду стаў вядомы кельтам (латэнская культура), у 2 ст. да н. э. ў іх працавалі ўжо даволі буйныя ганчарныя майстэрні. Германцам і зах. славянам ганчарны круг стаў вядомы ў 3 ст. н. э.

Ганчарны посуд усх. славяне пачалі вырабляць у сярэдзіне 10 ст. Ганчарнае рамяство тут зрабілася адметнай рысай гарадской цывілізацыі, хаця ганчары працавалі і ў вёсках. Першапачаткова ўсх.-слав. ганчары выкарыстоўвалі ганчарны круг толькі для загладжвання ўжо гатовага начыння ці частковай яго фармоўкі. Неганчарная К. 2-й паловы 10—11 ст. мае ў цесце дамешак жарствы і буйназярністага пяску. Таўшчыня чарапка 5—8 мм, дна — 1—1,5 см. Асн. формай ганчарнага посуду былі гаршкі, зробленыя на павольным крузе. Іх тулавы той жа формы, што і ў ляпных, прыдонная частка ўсечана-канічная. На плечуках і тулаве часта бывае лінейны арнамент з глыбока пракрэсленых ліній, без інтэрвалаў паміж імі. На крузе фармаваўся і нізкі посуд накшталт місак і патэльняў. На З і ПнЗ Беларусі, дзе пераважаюць тлустыя гліны, пры вырабе посуду для гатавання ежы ганчары вымушаны былі дадаваць у гліну шмат жарствы ці буйнога пяску. Таму стужкава-кальцавы налеп захаваўся тут як асноўны прыём фармавання К. нават пасля з'яўлення нажнога ганчарнага круга. На донцы звонку, як і ў масе — падсыпка жарствы, пераважае начынне з S-падобным профілем. На Магілёўшчыне, дзе пераважаюць абястлушчаныя прыродныя гліны, фармовачную масу для кухоннага начыння рабілі з некалькіх гатункаў глін. У выніку яна станавілася больш пластычнай. На посудзе і тут заўважаюцца сляды спіральна-стужкавага налепу. Форма пасудзін тут больш складаная. Гэта ж характэрна і для ганчарнага посуду ўсх. Палесся. Са з'яўленнем нажнога ганчарнага круга на Беларусі, як і ва ўсёй Усх. Еўропе, стаў выкарыстоўвацца спосаб тачэння, або выцягвання пасудзіны з аднаго кавалка гліны.

Асваенне вытворчасці каляровых паліваў, эмаляў, ангобаў адкрыла магчымасць аздабляць посуд і плітку, што выкарыстоўвалася для ўпрыгожання падлогі і сцен храмаў.

Асабліва шмат ганчарнай К. ў культурных пластах гарадоў 12—13 ст. З выгляду яна шэрая, для

абястлушчвання гліны ў цеста дабаўлялася многа пяску. Выкарыстоўвалася і дробная жарства. Частка К. добра абпалена ў горне. Паводле прызначэння гліняны посуд гэтага часу падзяляецца на кухонны (пячныя гаршкі розных тыпаў, накрыўкі, патэльні), сталовы (міскі, кубкі), тарны (карчагі, сярод іх і таўстасценныя амфары, якія прывозілі ў 11—13 ст. разам з віном у гарады Беларусі з Прычарнамор'я). Адметная рыса гаршкоў 11 ст.— складанапрафіляваны, адагнуты вонкі патоўшчаны венчык, што мае форму «карнізіка» ці «манжэты»; 12—13 ст.— ускладнены венчык, закруглены край якога загнуты ўнутр і прыстасаваны да прылягання накрыўкі. Шыйкі іх высокія, злёгку прафіляваныя. На плечуках гаршкоў лінейны ці хвалісты арнамент, часам спалучэнне двух арнаментаў (зрэдку яго наносілі пазногцем). Некаторыя гаршкі маюць на донцах рэльефнае кляймо ў выглядзе канцэнтрычных акружнасцей, колаў са спіцамі, пяціканцовых зорак, свастыкі, трызубца і інш. Аб прызначэнні клеймаў ёсць некалькі меркаванняў, найбольш верагодна, што гэта знак ганчара, а не заказчыка. Гэтае меркаванне падцвярджаюць матэрыялы раскопак гарадзішча і селішча каля в. Гарадзішча Мінскага р-на. На найб. старажытных гаршках кляймо простае — кола (салярны знак); у больш позніх — 2—3 і больш канцэнтрычных колаў, унутры якіх перакрыжавана ад 2 да 4 ліній. Гэта сведчанне таго, что ганчарнае рамяство перадавалася па спадчыне, з'яўлялася патомным (гл. *Клеймы*). У 12 ст. ў Полацку існаваў цэнтр вытворчасці гліняных пацерак з каляровай палівай.

Пасля прыняцця хрысціянства (988) у гарадах Кіеўскай Русі разгарнулася будаўніцтва цэркваў, што адразу расшырыла асартымент К. З гліны пачалі вырабляць *плінфу* (танкасценную цэглу), архітэктурныя дэталі, у т. л. *галаснікі*, для аздаблення падлогі і сцен выраблялі пліткі, якія часам пакрываліся паліхромнымі палівамі (гл. *Плітка дэкаратыўная*). Найбольш ранняя (11—13 ст.) плітняковая тэракотавая цэгла — плінфа была добра абпалена, мела чырвоны колер. Яе памер 25—30 × 15—20 см, таўшчыня 3—5 см. Плінфа выкарыстоўвалася для будаўніцтва Полацкай Сафіі, цэркваў у Віцебску, у 12 ст. паліваныя пліткі і архітэктурныя дэкаратыўныя дэталі выраблялі ў Гародні для аздаблення фасадаў Барысаглебскай (Каложскай) царквы, сцен і падлогі Ніжняй, падлогі Пакроўскай цэркваў; у Полацку — для аздаблення падлогі Вялікага сабора Бельчыцкай рэзідэнцыі (гл. Бельчыцкія храмы) і ўсыпальніцы полацкіх князёў. У 14 ст. з'явілася, а ў 16—17 ст. шырока распаўсюдзілася брусковая цэгла-пальчатка з адбіткамі і баразёнкамі ад пальцаў. Яна буйнапамерная (прыблізна 30 × 15 × 10 см). Частка цэглы перапальвалася і ператваралася ў цэглужалязняк цёмна-шэрага колеру, што выкарыстоўвалася для дэкору. У гэты час ганчары навучыліся загартоўваць посуд у растворы хлебнага квасу, у выніку чаго з'явілася «абварная», «гартаваная», «рабая» К., дэкор якой меў выгляд плям на светла-ружовым фоне. Пачаўся выраб дробнай пластыкі: абярэгаў у форме жывёл і птушак. У 14 ст. рамеснікі ВКЛ перанялі ў ням. майстроў уменне вырабляць кафлю, абліцоўваць ёй печы. Спачатку печы абліцоўвалі гаршковай кафляй, з 15 ст.— міскавай, з пачатку 16 ст.— цыліндрычнай і кратападобнай, пазней — каробчатай, г. зн. з прамавугольнай румпай і вонкавай пласцінай, упрыгожанай нізкарэльефным дэкорам. Паводле тэхналогіі вытворчасці, якасці і мастацкага выканання кафлі 14—16 ст. адпавядалі еўрапейскаму ўзроўню. Іх выраблялі тэракотавымі, паліванымі паліхромнымі. Будаўнічую К. (цэглу, плітку для падлогі, плоскую дахоўку) выраблялі ў драўляных формах (скрынях) з дном ці без яго (тады пад іх падсыпаўся пясок), сушылі на адкрытым паветры і абпальвалі ў спец. горнах. Гаршковую кафлю ў 14—16 ст. фармавалі як і посуд. Каробкавую кафлю выраблялі ў 2 этапы: саму пласціну рабілі ў спец. драўлянай ці глінянай форме (часам на тканіне), а румпу выцягвалі на ганчарным крузе, потым абедзве часткі злучалі.



**Кераміка** доўгіх курганоў Паўночнай Беларусі культуры. Гаршкі з курганнага могільніка Глінішча Полацкага р-на. 10 ст.



Да арт. **Кераміка.** Рукамый «насатка». Віцебск, 17 ст.

Аб'яднанне рамеснікаў у цэхі ў сярэдзіне 16 ст. спрыяла павышэнню якасці К. Асабліва гэтаму садзейнічала асваенне нажнога ганчарнага круга. У 17 ст. таксама пашырылася тэхніка абточвання (начынне поўнасцю фармавалі спіральна-кальцавым ці спіральна-стужкавым спосабам і пасля гэтага загладжвалі на нажным крузе) і надточвання (донца і частку сценак фармавалі са стужак ці кольцаў, а потым абточвалі, на крузе выцягваўся толькі венчык). Посуд сталі вырабляць больш тонкі і сіметрычны. Пашырыўся яго асартымент: кухонны — гаршкі, патэльні, макотры, рынкі, латкі; сталовы — міскі, талеркі, сподачкі, кубкі, сальніцы; тарны — збаны, глякі, крынкі, біклагі, спарышы. Пачалі вырабляць курыльныя люлькі, скарбонкі, дробную пластыку, цацкі-свістулькі і інш. рэчы. Прадукцыя ганчароў паступала на рынкі, набывала таварны характар. Белагліняны посуд з зялёнай палівай зрэдку прывозілі з Кіева яшчэ ў 12 ст. Значна больш белаглінянага посуду — «каменнага тавару» — трапляла ў гарады Беларусі ў 16 ст. з Рэйнскай вобласці. Росквіт керамічнай вытворчасці на Беларусі назіраецца ў канцы 16—1-й палове 17 ст. З канца 15 — пач. 16 ст. посуд і кафлю сталі пакрываць пераважна зялёнай палівай, з сярэдзіны 16 ст.— вырабляць маёлікавы посуд і кафлю, аздобленыя паверх нізкарэльефнага малюнка жоўтай, белай ці зялёнай эмаллю не ражком, як гэта рабілі ў 12—15 ст., а пэндзлем непасрэдна па непрасушаным чарапку. Для дэкаравання посуду выкарыстоўвалі дымленне, глянцаванне, падглазурны роспіс ангобам і надглазурны эмалямі. Да гэтага часу асвоены выраб кафлі самага разнастайнага прызначэння: сцянной, каронкавай, вуглавой, медальённай, перамычкавай. Кафляныя печы выконвалі функцыю малых архітэктурных форм у інтэр'ерах замкаў, культавых будынкаў, убранстве жылля мяшчан у гарадах і фальварковай шляхты. Культавае і жыллёвае каменнае будаўніцтва выклікала павелічэнне вытворчасці цэглы, пліткі для падлогі і керамічнай дахоўкі (чарапіцы). Росквіт вытворчасці паліхромнай каф-

лі на Беларусі ў 16—17 ст. дазволіў экспартаваць яе ў Маскоўскую дзяржаву. Туды ж вывозілі і палонных бел. майстроў керамічнай справы. Цаніннікі Сцяпан Палубес (Іваноў) з Мсціслава, П. Заборскі, І. Максімаў, С. Грыгор'еў, старац Іпаліт з Оршы і інш. ўпрыгожвалі кафлямі маскоўскія і падмаскоўныя храмы, харомы, церамы і манастыры, наладзілі вытворчасць кафлі пры Іверскім манастыры на Валдаі. Бел. майстры ўнеслі значны ўклад у вытворчасць архітэктурна-дэкаратыўнай К. ў Расіі. У 17 ст. на Беларусі з'явіўся і маёлікавы посуд, падсвечнікі, аздобленыя кобальтавым роспісам.

*Літ.:* 21а, 135, 218а, 671, 785, 847, 871а, 1226, 1313.

*Н. І. Здановіч, У. Ф. Ісаенка, В. Е. Собаль, Г. В. Штыхаў, М. М. Яніцкая.*

**КІЕЎСКАЯ КУЛЬТУ́РА,** археал. культура плямён, якія ў 2—3 — сярэдзіне 5 ст. жылі на Пн Кіеўскай, у Чарнігаўскай і Сумскай абласцях Украіны, на У Гомельскай і Пд Магілёўскай абласцей Беларусі, Пд Бранскай і З Курскай абласцей Расіі. Вылучыў у 1953 украінскі археолаг В. М. Даніленка. Вывучэнне помнікаў К. к. знаходзіцца ў пачатковай стадыі, арэал яе пашырэння ўдакладняецца. На Беларусі помнікі К. к. даследаваў Л. Д. *Побаль* (Абідня, Тайманава, Новы Быхаў Быхаўскага р-на). Помнікі гэтай культуры ў Верхнім Падняпроўі называюць помнікамі тыпу Абідні. Храналогія іх вызначаецца рымскім і чарняхоўскім імпартам (гл. *Чарняхоўская культура).*

Насельніцтва жыло на селішчах па берагах рэк і азёр, на невысокіх узвышшах сярод балоцістых паплаваў ці па краях надпоймавых тэрас. Найчасцей пл. селішчаў 0,5—2 га, зрэдку — да 6—8 га. Культурны пласт невялікі. У асобных выпадках селішчы ўзнікалі побач з раней збудаванымі гарадзішчамі. Выяўлены 2 тыпы жытлаў: паўзямлянкі і наземныя з адкрытымі агнішчамі. Паўзямлянкі прамавугольныя ў плане (пл. 8—24 м²), паглыблены ў зямлю на 0,4—1,2 м. Канструкцыя сцен слупавая ці зрубная. У гасп. комплекс уваходзілі асобна збудаваныя агнішчы з масіўным подам, замошчаным чарапкамі ці камянямі, і гасп. ямы для захоўвання прадуктаў. У выніку даследавання грунтавых могільнікаў устаноўлена, што трупаспаленне адбывалася па-за межамі пахавання. Перапаленыя косці змяшчаліся ў круглыя ці авальныя ямкі глыб. 0,2—0,6 м. Вядомы таксама урнавыя пахаванні (замест урнаў выкарыстоўвалі ляпныя гаршкі). Некаторыя з іх накрывалі перавернутай уверх дном пасудзінай. Пахавальны інвентар: бытавыя рэчы, прадметы ўбрання, рэшткі *трызны.* Насельніцтва К. к. займалася земляробствам, жывёлагадоўляй, рыбалоўствам. Добра былі развіты ганчарства, чорная і каляровая металургія, ткацтва.

Кераміка (гаршкі, міскі, пасудзіны маленькіх памераў, дыскі-накрыўкі, масіўныя гаршкі выш. да 50 см) ляпная, зрэдку арнаментаваная насечкамі і пальцавымі ўціскannямі па краях ці расчосамі грэбеня па тулаве. Сустракаецца глянцаваны посуд. Характэрна спалучэнне рабрыстых біканічных форм са слабапрафіляванымі і пукатымі. З жалеза і сталі выраблялі нажы з прамой ці злёгку пукатай спінкай, шылы, свердлы, кавальскія інструменты, нажніцы, сярпы і інш., з косці — іголкі, тупікі, спіцы, качадыкі, з гліны — тыглі, льячкі, грузілы, праслíцы (плоскабіканічныя з вял. адтулінай), з каменю — тачыльныя брускі, зерняцёркі, жорны. Выяўлены жал. наканечнікі стрэл, рыштунак конніка і каня (шпоры, дэталі конскай збруі). Тыповыя для плямён Верхняга Падняпроўя ў 2—5 ст. н. э. вырабы з выемчатай эмаллю (бронзавыя падвескі, фібулы і інш.). З рубяжоў крымскіх правінцый на тэр. плямён К. к. траплялі чырванлакавая кераміка, бронзавыя пасудзіны, пінцэты, шкляныя пацеркі, сярэбраныя дэнарыі. Генезіс помнікаў К. к. вывучаны недастаткова. Большасць даследчыкаў мяркуе, што яе фарміраванне адбывалася ў працэсе складанай перабудовы мясц. позназарубінецкіх старажытнасцей (гл. *Зарубінецкая культура)* з уключэннем некаторых традыцый, запазычаных у плямён *пшэворскай культуры* і *штрыхаванай керамікі культуры.* Бясспрэчных сведчанняў этнічнай прыналежнасці носьбітаў К. к. таксама няма. Існуе меркаванне, што прадстаўнікі К. к. з'яўляюцца продкамі славян ранняга сярэдневечча, некаторыя лічаць іх усх. *балтамі.*

*Літ.:* 119, 252, 895, 1386. *В. С. Вяргей.*

**КІЕЎСКАЯ РУСЬ,** дзяржава ўсх. славян са сталіцай у Кіеве, якая склалася ў канцы 9 — пач. 10 ст. ў выніку аб'яднання зямель усх.-славянскіх (палян, драўлян, севяран, *радзімічаў, крывічоў, дрыгавічоў,* ільменскіх славян, вяцічаў, *валынян, дулебаў,* ціверцаў, уліч̌аў, белых харватаў і інш.) і некаторых неславянскіх плямён. Як адносна адзіная дзяржава існавала да пач. 12 ст., займала тэр. ад Прычарнаморскіх стэпаў да Паўн. Дзвіны, ад Днястра і Зах. Буга да Волга-Окскага міжрэчча. К. Р.— важны этап у гісторыі народаў Усх. Еўропы. У перыяд феад. раздробленасці 12—13 ст. Старажытнарус. дзяржава распалася на самастойныя княствы-землі. У 6—8 ст. ва ўсх. славян узніклі тэрытарыяльна-палітычныя аб'яднанні — племянныя саюзы. Многія з іх мелі дзярж. ўтварэнні — «княжанні» з цэнтрамі: у палян — Кіеў, ільменскіх славян — Ноўгарад, крывічоў — Полацк, Смаленск, дрыгавічоў — Тураў, севяран — Чарнігаў, драўлян — Іскарасцень (Корасцень) і інш. З распадам першабытнаабшчыннага ладу на землях усх. славян пачалі фарміравацца феад. адносіны. Паводле летапісных звестак, у 9—10 ст. на тэр. К. Р. было 25 гарадоў, у 11—13 ст.— каля 300. У 9—13 ст. на тэр. Беларусі вядома да 35 гарадоў, сярод іх Полацк, Тураў, Віцебск, Брэст, Мінск, Друцк і інш. У 9 — пач. 12 ст. адбываўся супярэчлівы працэс складвання старажытнарус. народнасці, але з-за знешняй агрэсіі ён не набыў завяршэння і прыпыніўся. У ходзе эканам., сацыяльнага і дзярж. развіцця Старaж. Русі ў 12 ст. асобныя княствы К. Р., якая распалася, паступова аб'ядноўваліся ў групы, што былі папярэднікамі арэалаў будучых усх.-слав. народаў — беларускага, рускага, украінскага. Рост кантактаў прывёў у 2-й пал. 12 — пач. 13 ст. да ўтварэння 5 груп зямель, унутры якіх намеціліся даволі цесныя эканам. і культ. ўзаемасувязі. Гэта: 1) Наўгародская і Пскоўская землі; 2) Уладзіміра-Суздальская, Разанская, Усцюжская, Мурамская землі; 3) Кіеўская, Чарнігаўская, Северская землі; 4) Галіцкая і Валынская землі; 5) Полацка-Мінская і Смаленская, Тураўская, Пінская і Навагародская землі. У працэсе ўтварэння гэтых груп намецілася вылучэнне велікарускай, украінскай і беларускай народнасцей. У Полацкай, Смаленскай, Турава-Пінскай і Навагародскай землях закладваліся асновы беларускай народнасці. Развіццё сацыяльна-эканам. і этнакультурных сувязей перш за ўсё паміж Полацкай і Смаленскай землямі садзейнічала першапачатковаму этнаўтварэнню беларусаў, адсюль гэтыя працэсы паступова пашырыліся на інш. землі. Вакол Полацка і Смаленска ўзнік буйны мясцовы т. зв. смаленска-полацкі дыялект, які на ранняй стадыі адыграў значную ролю ў фарміраванні гэтай народнасці. Археал. даследаванні дазволілі істотна дапоўніць вывучэнне шэрага пытанняў гісторыі К. Р. Было даказана, што аснову эканомікі складала земляробства. Устаноўлены 2 лініі развіцця земляробчых прылад: ад усх.-слав. *рала* да плуга на Пд і ад бараны-сукаваткі да шматзубай *сахі* на Пн. Замена лядна-агнявой і папарнай сістэмы земляробства ворнай з тэндэнцыяй да ўстанаўлення трохпольля з'явілася рубяжом у гісторыі с.-г. і сацыяльна-эканам. развіцця ўсх. славян. Астэалагічныя знаходкі дапамаглі высветліць склад статка, пароды жывёлы і прасачыць заканамернасці развіцця жывёлагадоўлі. Было вызначана, што паляванне з'яўлялася дадатковай крыніцай харчавання, рыбная лоўля і бортніцтва адыгрывалі прыкметную ролю ў эканоміцы насельніцтва. Мёд, воск, футра ўваходзілі ў лік асн. тавараў экспарту Русі. Па матэрыялах раскопак устаноўлена, што рамяство ў старaж. гарадах К. Р.

не саступала рамяству зах.-еўрап. краін. Шмат увагі было аддадзена вывучэнню планіроўкі, забудовы і тапаграфіі гарадоў. Выяўлена 1395 умацаваных паселішчаў эпохі К. Р., сярод іх гарады, малыя ваенна-адм. цэнтры, феад. замкі. Адкрыты і вывучаны гарадскія двары-сядзібы — першапачатковыя сацыяльна-эканам. ячэйкі гар. абшчын. У выніку археал. раскопак помнікаў 6—10 ст. Украінскага Прыкарпацця атрыманы даныя, якія дазваляюць устанавіць эвалюцыю ўсх.-слав. абшчыны і вылучыць 3 стадыяльныя тыпы пераходнага перыяду ад першабытнага да класавага грамадства: вялікасямейная абшчына 6—7 ст.; земляробчая (суседска-вялікасямейная 8—9 ст.); суседская раннефеадальная. Кожны з іх звязаны з пэўным узроўнем сацыяльна-эканам. жыцця насельніцтва, кожнаму ўласціва свая сацыяльная структура і свае формы ўласнасці. Гарадская абшчына 10—11 ст. мела сваё самакіраванне, сваю тэрыторыю, магла мець свае ўласныя ўмацаванні.

Культура К. Р. знаходзілася на ўзроўні тагачасных перадавых краін, аб чым сведчаць інтэнсіўны рост гарадоў, пашырэнне пісьменнасці і вуснага нар. эпасу, перапіска кніг, развіццё прыкладнога мастацтва, шырокія знешнія сувязі з краінамі Захаду і Усходу і інш. Яе вытокам была культура ўсх.-слав. народаў, якія ўспрынялі элементы візантыйскай культуры. Архітэктура К. Р. была спачатку пераважна драўляная, з прыняццем хрысціянства будаваліся манументальныя храмы спачатку візантыйскімі, потым мясц. майстрамі; створаны выдатныя ўзоры дойлідства: Сафійскія саборы ў Кіеве, Ноўгарадзе, Полацку. Фарміраваліся мясцовыя архіт. школы — кіеўская, наўгародская, уладзіміра-суздальская, *Полацкая архітэктурная школа, Гродзенская архітэктурная школа* і інш. Гарады К. Р. складаліся з *дзядзінца, вакольнага горада, пасада* (падола), ці «канцоў». Важную ролю ў іх ансамблі адыгрывалі *абарончыя збудаванні.* На тэр. Беларусі да традыцый дойлідства К. Р. адносіцца шэраг збудаванняў 12 ст., якім уласцівы таксама рысы мясцовых архіт. школ: Полацкая Спаса-Ефрасіннеўская царква, Бельчыцкі Барысаглебскі манастыр (гл. *Бельчыцкія храмы), Гродзенская Ніжняя царква, Гродзенская Барысаглебская царква, Віцебская царква Звеставання.* Асноўным тыпам культавых збудаванняў 12 ст. сталі 4- і 6-стоўпныя аднакупальныя храмы з вузкімі вокнамі; характэрны ступеньчатая цэнтрычная кампазіцыя пабудовы, багаты дэкор на фасадах (Міхайлаўская царква ў Смаленску, Барысаглебская царква ў Гродне). Разам з культавым будаўніцтвам развівалася свецкая ма-



Аўтар карты Г. В. Штыхаў

нументальная архітэктура (княжацкія палаты і інш.). Высокага ўзроўню дасягнула ў К. Р. мазаіка, фрэска (Кіеў, Ноўгарад, Полацк). Скульптура (каменныя абразкі, шыферныя рэльефы) па сваім характары была блізкая да разьбы па дрэве. У дэкаратыўна-прыкладным мастацтве асн. месца займалі ювелірныя вырабы (бранзалеты, колты, завушніцы, дыядэмы, грыўні), рэчы з перагародчатымі эмалямі, разныя прадметы (чашы, аправы для кніг і абразоў), керамічныя вырабы (посуд, паліваныя размаляваныя пліткі) і інш. Шэдэўрам стараж.-рус. мастацтва з'яўляецца крыж Ефрасінні Полацкай, зроблены ў 1161 полацкім майстрам-ювелірам Лазарам Богшам. Высокае майстэрства ўсіх відаў мастацтва К. Р. ўзнімалася да лепшых узораў сусветнага ўзроўню.

*Літ.:* 88, 233, 256, 326, 364, 906, 906а, 1011, 1063, 1179, 1206.

*Г. В. Штыхаў.*

**КІ́МІЯ,** гарадзішча штрыхаванай керамікі культуры каля в. Кімія Барысаўскага р-на. За 150 м на Пн ад вёскі, на мысе, абмежаваным нізкай поймай невялікай рэчкі і глыбокім ярам. Пляцоўка авальная, памер 64×42 м. Умацавана з У валам выш. 0,5 — 0,6 м і ровам глыб. 0,3—0,5 м. Адкрыў у 1931 А. М. Ляўданскі, даследаваў 55 м² у 1950 А. Р. Мітрафанаў. Культурны пласт трохслаёвы, таўшч. ў цэнтры пляцоўкі да 0,5 м, каля ўсх. краю да 0,9 м.

У ніжнім і сярэднім пластах знойдзены жал. сярпы, нож, кіепадобныя шпількі, бронзавы бранзалет, касцяныя шпілька і вастрыё, дзяржанне шыла, гліняныя праслііцы, грузікі дзякоўскага тыпу, камяні зерняцёрак, шмат касцей свойскіх і дзікіх жывёл. Ляпная штрыхаваная кераміка прадстаўлена пасудзінамі, аналагічнымі па форме керамііцы мілаградскай культуры. Выяўлены рэшткі горнаў для выплаўкі жалеза, шлакі, шмат перапаленых камянёў, зерняцёркі, іх фрагменты, рэшткі наземнага жытла, каменная пляцоўка, агнішча з пляскатых камянёў, кавалкі гліняной абмазкі сцен жытла. У верхнім пласце выяўлены абломкі вастрарэберных пасудзін. Датуецца помнік 6 ст. да н. э.— 4 ст. н. э.

*Літ.:* 785. *А. Р. Мітрафанаў.*

**КІНЖА́Л** (араб. ханджар), клінковая халодная зброя блізкага бою, прызначаная для колючага ўдару. У старажытнасці рабіўся з крэменю ці рога жывёлы, пазней — з медзі, бронзы, жалеза. З эпохі сярэднявечча меў форму вял. нажа з дзяржаннем без перакрыжавання, 1- ці 2-лязовы клінок, які мог быць рознай ступені выгнутасці. Актыўна выкарыстоўваўся персамі, арабамі, туркамі, народамі Сярэдняй Азіі, з'яўляўся нац. зброяй каўказцаў. Уваходзіў у баявы рыштунак казацкіх вайсковых фарміраванняў Расійскай імперыі. У Зах. Еўропе не атрымаў шырокага выкарыстання. На Беларусі кінжал вядомы з 17 ст., часцей як парадная і дэкаратыўная зброя, у асноўным трафейная. Цэлы К. знойдзены археолагамі каля Лідскага замка.

*Літ.:* 675, 1108, 1457, 1463.

*Г. М. Сагановіч.*

**КІРКО́Р** Адам Ганоры Карлавіч [псеўд. Я н с а С л і в і н а, Я н В а л і г у р с к і, С а б о р ы і інш.; 21.1.1818, в Слівіна Клімавіцкага пав. Магілёўскай губ. (цяпер Манастыршчанскага р-на Смаленскай вобл.)—23.11.1886], археолаг, этнограф, гісторык, выдавец, літаратуразнавец, грамадскі дзеяч ліберальнага кірунку. Чл.-кар. Імператарскага археал. т-ва (1856), чл. Рускага геаграфічнага т-ва (1857), Акадэміі



А. Г. К. **Кіркор.**



А. М. **Кірпічнікаў.**

ведаў у Кракаве (1873), чл. Віленскага губернскага статыстычнага к-та (1849), Віленскай археал. камісіі (1855), хавальнік Віленскага музея старажытнасцей, якому ахвяраваў уласную археал.-этнагр. калекцыю, сабраную ў час экспедыцый па Мінскай і Віленскай губ. Вучыўся ў Магілёўскай (да 1834) і Віленскай (да 1838) гімназіях. Археал. дзейнасць пачаў у 1-й пал. 50-х г. З экспедыцыямі пабываў у Ашмянскім, Барысаўскім, Вілейскім, Віленскім, Лідскім, Мінскім, Навагрудскім, Свянцянскім, Трокскім і інш. паветах. Даследаваў каля 1000 курганоў уласным метадам «накрыж» (раскопкі з верху кургана да нізу ў форме крыжа). Выявіў муры стараж. замка на паўвостраве воз. Мястра, гарадзішча каля в. Рэчкі Вілейскага р-на і інш. Вёў археал. даследаванні на тэр. Зах. Украіны, Польшчы. У 1840 — 60-я г. ў Вільні выдаваў літаратурна-навук. альманахі, часопіс «Teka Wileńska» («Віленскі партфель»), дзе змяшчаў свае працы па гісторыі і этнаграфіі Беларусі і Літвы. Рэдактар газ. «Kurier Wileński» («Виленский вестник», 1860—65). З 1859 уладальнік друкарні ў Вільні. У 1868—71 адзін з выдаўцоў газ. «Новое время» ў Пецярбургу. З 1872 у Кракаве. У працах «Рэшткі язычніцкіх звычаяў на Беларусі» (1839), «Аб этнаграфічнай мяжы літоўскай і славянскай народнасцей у Літве» (1857), «Этнаграфічны погляд на Віленскую губерню» (1857—59), «Этнаграфічныя нарысы Сувалкскай губерні» (1873), у публікацыях «Літоўскае Палессе» і «Беларускае Палессе» (Жывапісная Расія. Т. 3, ч. 1—2, 1882) даў этнічную і сацыяльна-бытавую характарыстыку тыпаў беларуса, падкрэсліў самастойнасць бел. мовы, яе багатыя пісьмовыя традыцыі. Падрабязна разгледзеў бел. вусна-паэтычную творчасць, апісаў абрады, звычаі, гульні, танцы, святы і інш. У кн. «Пра літаратуру братніх славянскіх народаў» (1874) найб. выразна праявіўся падыход да бел. культуры як да шматвяковай гіст. з'явы ў адзінстве пісьмовых і вусна-паэтычных, фальклорных відаў творчасці.

*Літ.:* 44, 513. *Г. А. Каханоўскі.*

**КІРПІ́ЧНІКАЎ** Анатоль Мікалаевіч (н. 25.6.1929, Ленінград), рускі археолаг і гісторык. Д-р гіст. навук (1975). Заслужаны дзеяч культуры РСФСР (1990). Скончыў Ленінградскі ун-т (1953). У 1953—54 навук. супрацоўнік Ваенна-гіст. музея артылерыі, ракетных войск і войск сувязі ў Ленінградзе. З 1955 у Ленінградскім аддзяленні Ін-та археалогіі АН СССР — з 1974 заг. сектара, з 1986 заг. аддзела слав.-фінскай археалогіі. Даследуе ўзбраенне, ваенную справу і фартыфікацыю Русі 9—15 ст., а таксама пытанні археалогіі, гісторыі і культуры Стараж. Русі. У вывучэнні ўзбраення, асаднай тэхнікі і ваеннага мастацтва шырока выкарыстоўвае археал. матэрыялы з усёй тэр. Усх. Еўропы, у т. л. з Беларусі (мячы, шаблі, коп'і, суліцы, баявыя сякеры, булавы, кісцяні, шпоры, страмёны і інш.). У 1950—60-я г. ў складзе архіт.-

археал. экспедыцыі М. К. *Каргера* прымаў удзел у раскопках помнікаў архітэктуры 12 ст. ў Полацку і Навагрудку. Удзельнічае ў падрыхтоўцы навук. кадраў археолагаў для Беларусі.

*Тв.:* Древнерусское оружие. Вып. 1. Мечи и сабли IX—XIII вв. М.; Л., 1966; Древнерусское оружие. Вып. 2. Копья, сулицы, боевые топоры, булавы, кистени IX—XIII вв. М.; Л., 1966; Древнерусское оружие. Вып. 3. Доспех, комплекс боевых средств IX—XIII вв. Л., 1971; Снаряжение всадника и верхового коня на Руси IX—XIII вв. Л., 1973; Военное дело на Руси в XIII—XV вв. Л., 1976; Куликовская битва. Л., 1980. *М. А. Ткачоў.*



Свінцовы **кісцень** з Полацка, арнаментаваны салярнымі знакамі. 11 ст.

**КІСЦЕ́НЬ**, старажытная зброя ўдарнага дзеяння для бліжняга бою пешых і конных воінаў. Уяўляе сабой ігруша- ці шарападобную гіру на скураным рэмені (вяроўцы, ланцугу), які накручваўся на кісць рукі (адсюль назва) або мацаваўся да кароткага кія. На Русі К. з'явіўся ў 10 ст. як запазычанне ад качэўнікаў. Найбольш распаўсюджаны быў у 12—13 ст. На тэр. Кіеўскай Русі вядома каля 130 знаходак гэтай зброі. Выраблялі К. з косці металу (з жалеза, бронзы). Касцяны К. найб. пашыраны ў 10—11 ст.

На Беларусі К. знойдзены пры раскопках Мінска, Брэста, Ваўкавыска і Рагачова. Іх памеры 45×80, 50×84 мм, маюць скразныя адтуліны ці жалабкі пад скураны рэмень. На мінскім К. выява знака Рурыкавічаў (двухзубец з крыжам), на брэсцкім выява нагадвае літару «Д». У 12—13 ст. распаўсюджваліся металічныя К. Жалезны гірападобны К. 13 ст. знойдзены ў 1986 пры раскопках Слуцкага дзядзінца. Яго памеры 32×41 мм, вага 225 г. Гіра аздоблена глыбокімі дыяганальнымі канелюрамі, мае пятлю пад скураны рэмень. Захоўваецца ў *Слуцкім краязнаўчым музеі.*

*Літ.:* 385, 425, 527, 702. *Л. У. Калядзінскі.*

**КІСЦЯНІ́**, археал. помнікі каля в. Кісцяні Рагачоўскага р-на.

Гарадзішча *мілаградскай культуры* і *зарубінецкай культуры.* На правым беразе р. Дняпро, амаль у цэнтры вёскі. Займае мыс, утвораны 2 глыбокімі ярамі, з боку поля прасочваюцца рэшткі разаранага вала і амаль заплыўшага рова. Пляцоўка амаль прамавугольная, памеры 40×60 м. Вядома з 1873, абследавалі ў 1892 С. Ю. Чалоўскі і М. В. Фурсаў, у 1930 А. М. Ляўданскі, у 1950-я г. Ю. У. Кухарэнка і В. М. Мельнікоўская, у 1967 Л. Д. Побаль. Даследаваў у 1975—76 Э. М. Загарульскі, раскапана 380 м$^2$. Культурны пласт ад 0,3 м у цэнтры пляцоўкі да 1,7 м каля краю.



Агульны выгляд гарадзішча **Кісцяні.**



Жалезныя вырабы з гарадзішча **Кісялі.**

Пры падчыстцы мацерыка прасочаны рэшткі наземнай пабудовы слупавой канструкцыі, заглыбленай у зямлю на 0,2 м. Знойдзены фрагменты мілаградскіх ляпных пасудзін яйцападобнай формы з высокім прамым адагнутым вонкі венчыкам. Частка фрагментаў арнаментавана ямкавымі ўціскannямі па шыйцы. Для зарубінецкай керамікі характэрны высокі венчык, злёгку адагнуты вонкі, і круглаватае тулава, якое пераходзіць у плоскае дно. Некаторыя пасудзіны ўпрыгожаны пальцавымі ўціскannямі па краі венчыка. Частка посуду мае штрыхоўку. Сярод знаходак жал. сярпы, шпілька, жал. і бронзавыя кольцы, абломак бронзавага позналужыцкага бранзалета, арнаментаванага трыма спіралямі і кальцавымі насечкамі па ўсім полі, бронзавыя бранзалеты з патоўшчанымі канцамі, касцяныя праколкі, гліняныя грузікі, шкляныя і гліняныя пацеркі і інш. Гарадзішча функцыяніравала ў 2-й пал. 1-га тысячагоддзя да н. э.— пач. 1 ст. н. э. Магчыма, у 6—7 ст. яно выкарыстоўвалася як сховішча.

Селішча мілаградскай і зурубінецкай культур. За ярамі, на ПдУ і ПнЗ ад гарадзішча. Пл. каля 1 га. Даследавалі ў 1950-я г. Кухарэнка і Побаль. Культурны пласт прасочаны на ўсёй тэр. помніка. Знойдзены фрагменты ляпной керамікі.

*Літ.:* 896, 904. *А. А. Егарэйчанка.*

**КІСЯЛІ**, гарадзішча каля в. Кісялі Талачынскага р-на (у літаратуры вядома і пад назвай Кісялі — Дымакуры). За 800 м на З ад вёскі, на беразе р. Крывая (прыток р. Друць). Гарадзішча мысавага тыпу, выш. над узроўнем ракі 15 м. Ад суседняга ўзгорка аддзелена глыбокім ярам, з боку поля ўмацавана 3 валамі: па краі пляцоўкі падковападобным валам выш. ад 1—1,5 м (у паўн. і паўд. частках) да 8,2 м

(у цэнтр. частцы) і 2 дугападобнымі валамі выш. 1,2—1,5 м. Пляцоўка прамавугольная, памер 42×32 м. Зах. ўчастак пашкоджаны глыбокім ярам, які амаль дасягае яе цэнтра. Абследавалі ў 1950 Л. А. Міхайлоўскі, у 1981 В. М. Ляўко, раскопкі праводзілі ў 1956 Л. В. Аляксееў, у 1988—89 Ляўко. Ускрыта 168 м², магутнасць культурнага пласта ад 0,4 м (у цэнтры) да 2 м (па краі пляцоўкі). Першы перыяд засялення гарадзішча адносіцца да культур штрыхаванай керамікі і днепра-дзвінскай. Размяшчэнне слупавых ям і развалаў ачагоў сведчыць пра існаванне шматкамерных жылых канструкцый. У гэты перыяд вал адсутнічаў. 2 рады ям глыб. да 1 м і дыям. больш за 0,6 м па краі пляцоўкі сведчаць пра існаванне драўлянай агароджы. Кераміка — слоікападобныя слабапрафіляваныя пасудзіны рабрыстай формы, мілаградскага тыпу — штрыхаваная і гладкасценная, адзінкавыя фрагменты — з расчосамі. Другому перыяду засялення (6—7 ст.) адпавядае кальцавы вал з рэшткамі драўлянай агароджы па версе. Выяўлена кераміка банцараўскай культуры — ляпныя гладкасценныя пасудзіны з выразнымі плечукамі, валікам і насечкамі пад венчыкам. У трэці перыяд існавання гарадзішча (эпоха Кіеўскай Русі) яго пляцоўка расшырана, замест кальцавога збудаваны падкowападобны вал. Кераміка са шматрадным хвалістым арнаментам і прамым венчыкам (паўд. ўплыў).

Сярод найб. значных рэчавых знаходак вырабы з бронзы — фібулы першых ст. н. э. (у т. л. латэнскага тыпу), посахападобныя шпількі, пярсцёнкі, бранзалеты 6—7 ст. з расшыранымі канцамі і арнаментам у елачку, пласцілісты бранзалет, літы пярсцёнак, падвескі, падкowападобныя фібулы 8—11 ст. і інш., з жалеза — косы-гарбушы, серпападобны нож, долата, гарпун, нажы, шпоры, з косці — клыкі-амулеты, гарпуны, дзяржанне, гліняныя, шыферныя і бурштынавыя прасліцы, шкляныя бранзалеты, каралі. Шматлікі і рознабаковы матэрыял сведчыць, што гарадзішча знаходзілася ў густа заселенай мясцовасці з высокім узроўнем эканам. развіцця. Выгаднае месцазнаходжанне на воднай магістралі, магчыма, дазваляла паселішчу ажыццяўляць кантроль суднаходнага руху на адным з адгалінаванняў будучага шляху «з варагаў у грэкі».

*Літ.:* 46, 793. *В. М. Ляўко.*

**КЛАС** р э ч а ў, 1) сукупнасць прадметаў, якія маюць агульныя адзнакі, напр., К. нажоў, скрабкоў і інш. 2) Ячэйка, таксон класіфікацыі, група прадметаў, аб'яднаных адной прыкметай, агульнай для ўсіх уваходзячых у яе членаў, з дакладнымі межамі, якія аддзяляюць іх ад прадметаў сузалежных або аднапарадкавых груп, напр., К. тронкавых наканечнікаў стрэл, бястронкавых наканечнікаў стрэл і інш.

*Літ.:* 537. *В. Я. Кудрашоў.*

**КЛАСІФІКА́ЦЫЯ** (лац. classis разрад + facio раблю) у а р х е а л о г і і, размеркаванне прылад працы, рэчаў, аб'ектаў, з'яў і інш. па разрадах, групах, катэгорыях, класах у адпаведнасці з іх тыпамі, узроўнем апрацоўкі, іерархіяй, а таксама па ступені іх марфалагічнага падабенства (гл. *Марфалогія*), функцыянальным прызначэнні, відах нарыхтовак, прыёмах апрацоўкі і г. д. Звычайна К. грунтуецца на *тыпалогіі,* улічвае ўласцівасці, паходжанне і сувязь паміж асобнымі тыпамі.



Бронзавыя ўпрыгожанні з гарадзішча **Кісялі.**



Рэчы з гарадзішча **Кісялі.**



Да арт. **Клеймы** ганчарныя. Кляймо на донцы гаршка 15 ст. Мсціслаў.

аб'ядноўвае іх у групы і зацвярджае парадак іх узаемаразмяшчэння. *У. Ф. Ісаенка.*

**КЛЕ́ЙМЫ** г а н ч а р н ы я, рэльефныя адбіткі разнастайных знакаў на донцах ганчарных пасудзін. К. найчасцей выразалі ў цэнтры ганчарнага круга, на якім фармаваўся гаршчок. Круг пасыпалі попелам ці пяском, каб было лягчэй зняць гатовы выраб.

У 11—15 ст. посуд з К. быў пашыраны на тэр. Усх. Еўропы. Першапачаткова К. мелі, відаць, сімвалічнае значэнне. Амаль заўсёды яны ёсць на гаршках з курганоў, сустракаюцца на посудзе з паселішчаў. Клеймавалі нязначную частку посуду разнастайнымі знакамі. Найб. распаўсюджаны К. ў форме акружнасцей. Часта сустракаюцца крыжы рознай формы, у т. л. свасцікі, а таксама прамавугольнікі, трохвугольнікі і інш. На тэрыторыях, заселеных славянамі, сімволіка К. даволі аднастайная, што сведчыць пра іх культурнае адзінства ў сярэднія вякі. Існуе шэраг поглядаў на ўзнікненне К. Адны даследчыкі (К. П. Тышкевіч і інш.) лічылі, што К. мелі магічны характар і павінны былі ратаваць гаспадара пасудзіны ад уздзеянняў звышнатуральных сіл. Другія (Б. А. Рыбакоў і інш.) мяркуюць, што гэта знакі майстроў, якія ўскладняліся з пакаленнямі ў пакаленне. На думку Р. Л. Розенфельда, К.— знакі заказчыкаў. А. А. Бобрынскі лічыць іх прыкметай рамеснай вытворчасці ў пераходны перыяд ад працы па канкрэтным заказе да працы на рынак. Паводле А. Л. Мангайта, у язычніцкія часы на тэрыторыі рассялення славян К. мелі характар рэлігійных сімвалаў, агульных для слав. народаў, звязаных з салярным культам (гл. *Салярныя знакі),* якія са з'яўленнем ганчарнага круга перанесены на керамічныя вырабы і сталі знакамі майстроў. Значэнне К. як сімвалаў, якія страцілі першапачатковае культавае прызначэнне іператварыліся ў тамгі (знакі ўласнасці рамеснікаў), дазваляе растлумачыць іх падабенства і шырокі геаграфічны дыяпазон. На Беларусі традыцыя клеймавання посуду існавала ў гар. кераміцы да 15 ст. Пасудзіны гэтага часу з К. знойдзены ў большасці гарадоў 11—13 ст., у т. л. Мсціславе, Мазыры, Гродне. Пераважная большасць К. уяўляе сабой круг ці фігуры на яго аснове (схематычную выяву сонца, канцэнтрычныя кругі, у т. л. з перапонкамі паміж імі, крыж, упісаны ў круг, кола са спіцамі), а таксама камбінацыі ламаных ліній, геам. фігур (напр., састаўленыя вяршынямі 2 трохвугольнікі). Кляймо 14—15 ст., знойдзенае ў Мазыры, уяўляе сабой люстраны адбітак літар. Матэрыял, выяўлены ў Мсціславе, дазваляе сцвярджаць, што на падстаўцы з адным і тым жа К. рабілі посуд рознага дыяметра і прызначэння. У Гродне аднолькавыя К. выяўлены на гаршках, макотрах і накрыўках. Вядомы таксама ганчарныя К. на гаршковай кафлі 14 ст., выяўленай у Лідскім замку, а таксама клеймы на плінфе. У выніку аналізу эвалюцыі абрысаў К. можна меркаваць, што на працягу 12—15 ст. адбываецца іх спрашчэнне.

*Літ.:* 800, 1011, 1230.

*Н. І. Здановіч, А. А. Трусаў, А. Н. Плавінскі.*

**КЛЕЙН** Леў Самуілавіч (н. 1.7. 1927, г. Віцебск), археолаг. Скончыў Ленінградскі ун-т (1951). У 1960—81 на кафедры археалогіі Ленінградскага ун-та. У 1990—92 чытаў лекцыі ў Берлінскім, Капенгагенскім, Кембрыджскім, Мадрыдскім, Оксфардскім і інш. ун-тах. Даследуе пытанні паходжання славян і інш. народаў, славянскую язычніцкую рэлігію, праблемы тэарэтычнай археалогіі. У 1948 удзельнічаў у раскопках Мінска, у 1955—56, 1958 абследаваў стаянкі каменнага веку зах. часткі верхняга Панямоння.

*Тв.:* К постановке вопроса о происхождении славян // Проблемы отечественной и всеобщей истории. Л., 1969; Археологические признаки миграций (Доклады советской делегации на IX МКАЭН в Чикаго). М., 1973; Археологические источники. Л., 1978; Археологическая типология. Л., 1991; A panorama of theoretical archaeology // Current Anthropology. Chicago. 1977. Vol. 18, № 1; Arhaeological typology. Oxford, 1982.

**КЛЕПАЧЫ́,** каменны могільнік канца 14 — пач. 16 ст. каля в. Клепачы Слонімскага р-на. За 2,5 км на З ад вёскі, за 20 м на Пд ад воз. Бяздоннае. На пляцоўцы памерам 200×50 м больш за 100 магіл. Адкрыў і даследаваў у 1955 славяна-літоўскі атрад Прыбалтыйскай комплекснай экспедыцыі (кіраўнік Ф. Д. Гурэвіч), абследавалі ў 1974 І. Ф. Ісаенка, у 1982 А. В. Квяткоўская. Паводле мясц. падання, у даўнія часы на месцы возера была вёска. Аднойчы завітаў сюды Бог у абліччы старога жабрака і папрасіў кавалак хлеба. Толькі адна жанчына злітавалася над ім, дала яму бохан у дарогу. Вырашыў Бог пакараць людзей за сквапнасць, а жанчыну папярэдзіў, каб ішла з вёскі і не азіралася. Але яна не вытрымала і на пагорку за вёскай азірнулася — за спінай раскінулася вялікае возера. А жанчына ператварылася ў камень, падобны на жаночую фігуру з доўгай касой.

Магілы, згрупаваныя па 2, 3 і больш, працягнуліся няроўнымі радамі з Пн на Пд. У галаве пахаванняў вял. камяні, зрэдку крыху меншыя — у нагах. Некаторыя камяні абчасаны з бакоў, на адным выбіты крыж выш. 9 см. Каменныя вымасткі авальнай формы (1,7×1,0×0,35 м, 2,6×1,4×0,35 — 3,3×1,3×0,3 м) у адзін слой, часам адсутнічаюць. У пахаваннях цэнтральнай часткі (найб. старажытнай часткі могільніка) выяўлены вуглі і інвентар. Большасць даследаваных магіл (55) без інвентару. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў авальных ямах, звужаных каля дна (глыб. ад 0,55 да 1 м). Шкілеты ляжалі на спіне (за выключэннем падхавання, дзе дзіцячы шкілет крыху павернуты на правы бок), галавой часцей на ПдЗ ці З, зрэдку на Пн. У большасці пахаванняў выяўлены рэшткі дамавін, вугалі, якія размяшчаліся над усім шкілетам, не дасягаючы чэрапа, над чэрапам і нагамі, толькі над нагамі. Побач з магільнымі ямамі прасочаны рэшткі рытуальных вогнішчаў. Пад вымасткамі ў слоі гумусу, зрэдку ў запаўненні магільных ям знойдзены фрагменты непаліванай, у т. л. моранай, ганчарнай керамікі канца 14—16 ст. На венчыках некаторых гаршкоў лінейны арнамент у 1 ці 2 рады, у адным выпадку на тулаве хвалісты арнамент. Пахавальны інвентар бедны, у асноўным жаночыя ўпрыгожанні: бронзавае скроневае кольца з 3 кроплепадобнымі падвескамі, завушніцы 3 тыпаў (кольца з бронзавага дроту, перавітага на адным канцы кавалачкам дроту, з дзвюма ажурнымі падвескамі ў цэнтры; кольца з гладкага бронзавага дроту, двойчы перавітага другім кавалачкам дроту, завушніца ў форме запытальніка, шпількі для мацавання галаўных убораў, пярсцёнкі, аз-




Бронзавая шпілька тыпу «пус ейпі» (1), завушніцы (2, 4), скроневые кольца (3), пярсцёнкі (5, 6) з каменнага могільніка **Клепачы**.

добленыя 3 равочкамі і з круглым навершам у выглядзе пласцінкі, бронзавая спражка з кавалачкам тканіны, расшытай тонкім медным дротам. Аналіз вымасткаў, пахавальнага інвентару і абраду сведчыць, што, нягледзячы на афіцыйнае прыняцце хрысціянства, да пач. 16 ст. нябожчыкаў хавалі паводле язычніцкага абраду.

*А. В. Квяткоўская.*

**КЛЕПАЧЫ́,** назва *манет фальшывых* у бел. дакументах 16—18 ст.

**КЛЕЦК,** горад, цэнтр Клецкага р-на, на р. Лань. За 140 км на ПдЗ ад Мінска, чыг. станцыя на лініі Асіповічы — Баранавічы, аўтадарогі на Нясвіж, Баранавічы, Слуцк. У 10 ст. на месцы К. ўзнікла неўмацаванае паселішча, якое выконвала ролю адм. цэнтра дрыгавіцкага насельніцтва, што жыло ў вярхоўях Лані і Ушы. Забудова дзядзінца і вакольнага горада, развіццё рамяства і гандлю ператварылі К. у тыповы старaж.-рус. горад. К. 10—13 ст.



Дзядзінец **Клецка** 11 ст. Фота 1923.

складаўся з дзядзінца і вакольнага горада.

Дзядзінец размешчаны на левым беразе р. Лань, ніжэй упадзення ў яе р. Сільнай, на прырэчным схіле марэннага ўзгорка. Даследавалі ў 1961, 1966 і 1967 П. Ф. Лысенка, у 1983 М. А. Ткачоў, у 1988 В. С. Пазнякоў. Уяўляе сабой рэшткі цэнтр. ўмацавання — Высокага замка. Першапачатковае неўмацаванае паселішча на месцы дзядзінца існавала ў 1—5 ст. н. э. і належала да культуры штрыхаванай керамікі. Тут знойдзены чарапкі гліняных гаршкоў, грузік, шлакі, косці жывёл. У 2-й пал. 10 ст. на гэтым месцы ўзнікла паселішча, у сярэдзіне 11 ст. пабудаваны дзядзінец, які займаў і частку неўмацаванага селішча. Дзядзінец формай падобны да круга (памеры 90×100 м, пл. 0,75 га), умацаваны пясчаным валам шыр. 14 м, выш. 2,5 — 3 м. У 12—13 ст. вал падсыпаны, яго шыр. дасягнула 18 м, выш. 3,5—5 м; знешні схіл умацаваны пластом гліны. З боку поля дзядзінец быў аддзелены ровам. На грэбені валоў дзядзінца стаялі драўляныя сцены. Падчас археал. раскопак сабрана вял. калекцыя вырабаў з жалеза, каляровых металаў, шкла, каменю, косці.

З прылад працы знойдзены нажы, долаты, свердлы, наждачны круг, з рэчаў хатняга ўжытку — замкі, ключы, абручы вядзёр, грабяні, крэсівы, з упрыгожанняў — шкляныя і бронзавыя бранзалеты, пацеркі, скроневае кольца, нашыўныя бляшкі. Даследаваны рэшткі ювелірнай майстэрні 1-й пал. 13 ст., дзе сабрана 3,5 кг неапрацаванага бурштыну. Вялікую цікавасць уяўляюць сабой знаходкі трох наканечнікаў ворных прылад і фрагмент бронзавай чашы, выраблены у Германії. У 14—15 ст. Клецк перажываў заняпад, але дзядзінец працягваў выконваць свае ваенна-абарончыя функцыі. У 1503 і 1506 яго драўляныя ўмацаванні спалены і разбураны крымскімі татарамі. На працягу 16 ст. дзядзінец, як і ўвесь горад, паступова адбудаваны. Інвентар 1626 упершыню дае новую назву дзядзінца — Высокі замак (у адрозненне ад Дольнага замка — б. вакольнага горада). Высокі замак таксама меў драўляныя сцены і адну вежу-браму, на якой знаходзіўся гадзіннік. У час раскопак ускрыты рэшткі пабудоў, мураваных сцен, цэгла-пальчатка, дахоўка, кафля. Сабрана калекцыя рэчаў 16—17 ст.: наканечнікі стрэл, стальныя пласціны панцыра, ключы, завесы, цвікі і інш. Высокі замак з усімі пабудовамі разбураны ў сярэдзіне 17 ст. рус. войскам падчас руска-польскай вайны, больш не адбудоўваўся і прыйшоў у заняпад. Збераглося гарадзішча з рэшткамі валоў. Пляцоўка пакрыта дзірванам. За 300 м на ПнЗ ад дзядзінца, на левым беразе Лані знаходзіўся курганны могільнік К. (упамінаецца ў інвентары за 1552).

Вакольны горад быў асн. рамесніцкай і гандл. часткай стараж. К. Мае форму паўкруга (даўж. 400 м, пл. 7,6 га), які з 3 бакоў абкружае дзядзінец і канцамі выходзіць да р. Лань. Пляцоўка вакольнага горада ўступам узвышаецца над навакольлем у паўн. частцы на 3,7 м, ва ўсходняй — на 0,5—1,2 м, у паўднёвай — каля 4 м. З боку поля абкружана ровам (цяпер засыпаны зямлёй), які ва ўсх. частцы меў шыр. каля 8 м і глыб. 2,2 м. Сцены і дно яго ўмацаваны глінай, перамяшанай з буйназярністым жвірам. На валах стаялі драўляныя абарончыя сцены і вежы. Даследавалі ў 1986 Т. С. Бубенька, у 1986—87 Пазнякоў. Ускрыта больш за 2,6 тыс. м². Культурны пласт 0,6—1,2 м. Устаноўлена, што ў 10—11 ст. на месцы вакольнага горада існавала неўмацаванае паселішча. У яго пластах знойдзены наканечнікі кап'я і стралы, ключы, крэсіва, вядзёрныя абручы, шыферныя прасліцы, касцяныя праколкі, нажы, кераміка, жал. і бронзавыя падкованападобныя фібулы, бранзалеты, шкляныя пацеркі, язычніцкі амулет — прасвідраваны ікол кабана. У 12—13 ст. на месцы паселішча ўзнік вакольны горад. Тут знойдзены нажы, наканечнік кап'я, шпора, разцы, шылы, іголкі, жорны, ключы, вядзёрныя абручы, фрагменты керамікі, шкляныя і бронзавыя бранзалеты. Сярод унікальных знаходак — пярсцёнак-сігнет 12 ст. з выявай грыфона. У 2-й пал. 13—15 ст. вакольны горад заняпаў. Да 15 ст. адносіцца раскапаны тут катлаван вял. склепа, у якім знойдзены сярэбраны пражскі грош. У 16 ст. жыццё вакольнага горада зноў ажывілася. У інвентары Клецка 1626 вакольны горад называецца Дольным замкам. Яго валы былі ўмацаваны драўлянымі сценамі (парканам) з 12 вежамі, 2 з якіх былі адначасова брамамі (адна называлася Глухая). На тэр. Дольнага замка ў 16 ст. размяшчаліся каралеўскі і княжацкі двары, сядзібы баяр, іх абслугі, майстроў. У 17 ст. ўся тэр. Дольнага замка занята дваром кн. Радзівілаў, у 18 ст.— сядзібай іх старосты. Ва ўсх. частцы Дольнага замка выяўлены 2 жытлы 16 ст.— двухкамерныя пабудовы на заглыбленых да 1,5 м у зямлю падклецях. Сабраны вял. колькасць кухоннай і сталовай керамікі 16—18 ст., кафлі (у т. л. ажурнай), фрагменты шклянога посуду, рэчы хатняга ўжытку, зброя, рыштунак вершніка і каня, прылады працы. Матэрыяльная культура гэтага часу сведчыць пра высокі ўзровень развіцця ў Клецку рамяства і гандлю.

Старажытны К. (Кльчьск, Клечьск, Клическ) упершыню ўпамінаецца ў летапісах пад 1127 як цэнтр удзельнага княства, князь якога Вячаслаў Яраславіч у якасці васала Кіеўскага вял. кн. Мсціслава Уладзіміравіча ўзельнічаў у паходзе на Полацкае княства. У 1142 вял. кн. кіеўскі Усевалад Ольгавіч аддаў К. свайму брату Святаславу. Новы вял. кн. кіеўскі Ізяслаў Мсціславіч у 1146 адабраў у яго горад, але ў 1149 Юрый Далгарукі, які заняў Кіеў, вярнуў К. Святаславу Ольгавічу. З 13 ст. К. у складзе ВКЛ, быў часткай велікакняжацкага дамена. У 1401 вял. кн. ВКЛ Вітаўт перадаў К. свайму брату Жыгімонту Кейстутавічу, у 1404 — пляменніку Раману. З 2-й пал. 15 ст. да 1522 горадам валодалі збеглы рус. кн. Іван Васілевіч Яраславіч (праўнук Уладзіміра Андрэевіча Серпухоўскага) і яго сын Фёдар Іванавіч Яраславіч, у 1523—57 — каралева Бона, з 1558 — Радзівілы. Гл. таксама арт. *Клецкія абарончыя збудаванні.*

*Літ.:* 703. *В. С. Пазнякоў.*

**КЛЕ́ЦКІ ГІСТО́РЫКА - ЭТНАГРАФІ́ЧНЫ МУЗЕ́Й.** Заснаваны ў г. Клецк у 1961 як школьны музей, з 1979 дзяржаўны. Мае 6 экспазіцыйных залаў (пл. 250 м²), больш за 4,5 тыс. экспанатаў асн. фонду (1991), у т. л. 130 археал. знаходак з Клецкага гарадзішча. Ёсць матэрыялы эпохі неаліту і бронзы (крамянёвыя прылады працы, свідраваныя сякеры), рэчы хатняга ўжытку 11—17 ст. (розны посуд, крэсівы, ключы, замкі, касцяныя грабеньчыкі і інш.), сярэдневяковая зброя (наканечнікі дзідаў, стрэл), упрыгожанні (шкляныя бранзалеты 12—13 ст., хрусталёвыя і шкляныя пацеркі 11—16 ст.). Дэманструюцца буд. дэталі (цэгла, дахоўка, кафля) 16—17 ст. У нумізматычнай калекцыі больш за 1000 сярэбраных і медных манет 16—20 ст.

**КЛЕ́ЦКІЯ АБАРО́НЧЫЯ ЗБУДАВА́ННІ,** комплекс драўляна-земляных умацаванняў клецкага дзядзінца 11—13 ст., Высокага і Дольнага замкаў 14—18 ст. і гар. умацаванняў 17 ст. Цэнтрам абароны стараж. і сярэдневяковага *Клецка* быў дзядзінец летапіснага горада (упершыню ўпамінаецца ў летапісах пад 1127), які займаў прыроднае ўзвышша на левым беразе р. Лань. Замчышча ў плане мае абрыс круга дыям. 80 м і абведзена валам выш. 1,3—1,5 м. Прарэзка вала (1981, М. А. Ткачоў) паказала, што асн. насып зроблены ў 11 ст. з пяску і жвіру. Пазней вал падсыпаўся не менш як 5 разоў. Ядром сярэдневяковых умацаванняў замка быў насып стараж. вала шыр. каля 8 м у аснове і выш. 2,5—3 м. Пляцоўка замчышча ўзвышалася над далінай Лані на 8—10 м і была аддзелена ад астатняга плато абарончым ровам шыр. каля 35 м і глыб. 6—7,5 м. Паднятыя запрудай воды ракі жывілі роў і прыкрывалі падступы да замка, у які можна было трапіць праз замкавую браму па перакінутым мосце. У 2 падсыпках вала выяўлены спарахнелыя рэшткі першапачатковых драўляных канструкцый. Археал. даследаванні даюць падставу меркаваць, што каменных сцен і вежаў замак ніколі не меў. У 1503 Клецк захапілі крымскія татары, якія «жегше город Клецк». Гэта, відаць, паўтарылася ў 1506, калі татары «пришедши до Клецка, стали там кошем». Тады іх ушчэнт разбілі ў раёне Краснага става бел.-літ. палкі, якія вызвалілі 40 тыс. палонных мірных жыхароў. Як і большасць прыватнаўласніцкіх гарадоў Радзівілаў, Клецк быў умацаваным горадам. Акрамя замка, ён меў лінію гар. умацаванняў, якія абкружалі тэр. стараж. вакольнага горада. Замак і горад засцерагалі земляныя валы і ўмацаванні. На гравюры Т. Макоўскага з выявай Клецка 16 ст. зафіксаваны дзве 4-ярусныя драўляныя вежы з байніцамі і сцены-гародні, накрытыя стрэшкамі. У горадзе была свая артылерыя. Інвентар за 1575 называе «пушкаря Клецкого», які меў у Сапотвінскім войтаўстве валоку зямлі, Пятра-шабельніка, кавалёў і інш. рамеснікаў. У канцы 16 ст. ў замку

было 3 пушкары. Ад гар. умацаванняў таго часу захаваліся рэшткі вала выш. 1—1,5 м і рова глыб. каля 3,3 м, якія моцна знівеліраваны сучаснай гар. забудовай. У апошняй чвэрці 16 ст. Клецк значна вырас і перасягнуў межы гар. умацаванняў у паўн.-зах. напрамку. У інвентары за 1575 упамінаецца «Новы рынак», што сведчыць пра фарміраванне новага цэнтра горада. Да яго працягнуліся новыя вуліцы, адна з якіх названа ў інвентары як «улица от Нового рынка». У час паўстання С. Налівайкі (1594—96) пад ахову клецкіх умацаванняў збягала ў 1595 шляхта Навагрудскага ваяводства. У інвентары горада за 1626 ёсць звесткі пра Высокі і Дольны замкі. У Высокі замак, абкружаны драўлянымі сценамі, можна было трапіць па вельмі старым у той час мосце і праз старую браму. На замкавым двары размяшчаліся гасп. пабудовы і цэйхгауз, у якім захоўваліся 8 літых бронзавых і 3 жал. гарматы, 70 гакаўніц, 22 ручніцы, 65 коп каменных, жал. і алавяных ядраў, порах, розная амуніцыя і інш. У Дольным замку было 10 вежаў і 2 брамы. Адна з брам называлася Доўгая. Была таксама студня, з якой ваду падымалі вядром на ланцугу. Інвентар з 1628 паведамляе, што і прыгарады таксама мелі сваю лінію фартыфікацыі. Клецкія гар. ўмацаванні падзяляліся на часткі — замацаваныя за мяшчанамі «кватэры», якія яны рамантавалі і даглядалі. Усё мужчынскае насельніцтва Клецка было ваеннаабавязаным і ў выпадку ваеннай небяспекі аб'ядноўвалася ў дзесяткі і сотні. Аднак невял. апалчэнне горада не магло процістаяць рэгулярнаму войску, пра што сведчаць падзеі рус.-польскай вайны 1654—67. У канцы жніўня 1654, у перыяд ваенных дзеянняў у цэнтр. Беларусі, царскія войскі пад камандаваннем ваяводы А. М. Трубяцкога спалілі Клецк, а «...людей...высекли и совсем разорили без остатку». У інвентары за 1671 звесткі пра К. а. з. адсутнічаюць. Знік Дольны замак. У Высокім замку захаваліся толькі ўязная брама з пад'ёмным мостам перад ёй і агароджа з плах. Большую частку замкавага двара займаў агарод. На ранейшым месцы стаяў цэйхгауз, у якім знаходзіліся 4 малыя бронзавыя і 2 жал. гарматы, 20 ручніц, запас жал., каменных і алавяных ядраў агульнай колькасцю 59,5 коп, алавяны шрот для гакаўніц, 2 штурмакі і інш. У Паўн. вайну 1700—21 яшчэ не зусім адроджаны Клецк быў цалкам знішчаны шведамі ў 1706. Інвентары горада за 1713, 1714, 1769 і 1782 называюць тут толькі «вялікі акоп з ровам». На месцы замка за нізкім штыкетнікам стаяў дом клецкага адміністратара. У дакументах усё яшчэ згадваюцца абавязкі гараджан на выпадак пажару: мець кадку з вадой, драбіны на даху, жал. крукі і пажарныя помпы. Пасля 1706 К. а. з. не ўзнаўляліся. *М. А. Ткачоў.*

**КЛЕЦЬ,** зрубная гасп. пабудова. Вядома з часоў Кіеўскай Русі па раскопках у Віцебску, Полацку, Давыд-Гарадку, Слуцку і інш. У *Віцебскім Верхнім замку* і ў Полацку ў пласце 13 ст. захаваліся К. пл. 9—16 $м^2$, узведзеныя з хваёвага бярвення таўшч. 16—20 см; ніжнія 3—4 вянкі зруба дубовыя. Падлога з аполкаў шыр. 16—22 см і таўшч. 8—12 см насцілалася на лагі-пераводзіны на ўзроўні 4—5-га вянкоў, утвараючы падклецце, якое ізалявала К. ад вільгаці. У асобных выпадках падклецце мела вентыляцыйную адтуліну («акно»). У культурным пласце, які запаўняў К., часам было гарэлае збожжа.



**Клецкія абарончыя збудаванні.** План: 1 — Верхні замак; 2 — Ніжні замак.

Клеці 13 ст. з Давыд-Гарадоцкага і Слуцкага замкаў маюць пл. 9—12 $м^2$, узведзены з бярвёнаў таўшч. 14—16 см. Падлога ў іх насцелена ніжэй у параўнанні з віцебскімі і полацкімі. Па-за межамі Беларусі К. 12—13 ст. вядомы па раскопках Ноўгарада Вялікага. К. 14—16 ст. знойдзены пры раскопках Віцебскага Верхняга замка, канструкцыйна яны амаль не адрозніваюцца ад больш ранніх. У 17—18 ст. К. будавалі з высокай падклеццю, якая служыла дадатковым сховішчам або майстэрняй у двухпавярховым зрубе. Верхні паверх выкарыстоўваўся пад жыллё. Такая падклець у 8 вянкоў выяўлена ў Віцебскім Ніжнім замку. У пісьмовых крыніцах К. упершыню згадваецца ў 2-й пал. 13 ст. ў лісце рыжан віцебскаму кн. Міхаілу: «А се тобе княже третью обиду поведываем... што товар его был... у клети». У розных мясцовасцях Беларусі К. мела розныя назвы. У інвентары Віцебскага замка за 1506 яна названа свірнам. Пад такой жа назвай вядома ў інвентарах 16—17 ст. У традыцыйным побыце беларусаў К. захавалася да пач. 20 ст. і выкарыстоўвалася як сховішча для намалочанай збажыны, пасагу маладой, вопраткі або як жытло ўлетку.

*Літ.:* 161, 413, 546, 703, 829, 1004, 1196, 1347. *Л. І. Калядзінскі.*

**КЛЕЯВІЧЫ,** стаянка эпохі палеаліту каля в. Клеявічы Касцюковіцкага р-на. На правым беразе р. Бесядзь, ва ўрочышчы Канчанскі Роў. Адкрыў у 1929 і даследаваў у 1929—30, 1949 К. М. Палікарповіч, абследаваў у 1964 У. Дз. Будзько. Знойдзены расшчэпленыя крамяні, дыскападобныя нуклеусы мусцьерскага тыпу, скрэбла, адшчэпы з тэхнікай сколу, характэрнай для эпохі *мусцье* (на асобных прасочваецца апрацоўка краёў рэтушшу), рэшткі касцей маманта, каня і інш. жывёл.

*Літ.:* 919.

**КЛЁНКІ,** курганны могільнік каля пас. Клёнкі Гомельскага р-на. За 5 км на ПнУ ад пасёлка, на Пн ад в. Раманавічы, ва ўрочышчы Баравая (Баравіца), на краі 8-метровай надпоймавай тэрасы левага берага р. Сож. 10 кургаоў даследаваў у 1890 М. М. Філонаў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне. Знойдзены трохгранны бранзалет, пярсцёнак з разамкнутымі канцамі, драцяныя скроневыя кольцы з нізкапробнага серабра, пацеркі (мазаічныя, сінія і пазалочаныя шкляныя, бронзавыя ажурныя ў выглядзе муфтачкі). У 1980 і 1988 абследаваў А. А. Макушнікаў. Захавалася 18 насыпаў выш. 0,5—1,5 м, дыям. 5—10 м. Большасць іх пашкоджана старымі раскопкамі ці акопамі.

*Літ.:* 733, 981. *А. А. Макушнікаў.*

**КЛІМАВІЦКІ КРАЯЗНАЎЧЫ МУЗЕЙ.** Адкрыты ў 1984 у г. Клімавічы. Пл. экспазіцыі 222 $м^2$, каля 5 тыс. экспанатаў асн. фонду (1991), у т. л. каля 50 археал. знаходак: бівень маманта, крамянёвыя вырабы, каменныя свідраваныя і дзяржанневыя сякеры, жал. наканечнікі коп'яў, фрагменты керамічнага посуду і інш. У нумізматычнай калекцыі манеты 18—20 ст.

**КЛІМАВІЦКІ МАНЕТНЫ СКАРБ.** Знойдзены ў г. Клімавічы ў 1804. Складаўся з 1815 *сестэрцыяў* і *дэнарыяў* «першых рымскіх імператараў». Знаходка здадзена ў Прыдворнае Казначэйства (Пецярбург), адтуль 8.12.1804 перададзена ў Эрмітаж і праз 9 дзён вернута назад, далейшы лёс невядомы. Ухаваны, магчыма, у 2 ст. Самы буйны з вядомых на Беларусі скарбаў антычных манет.

*Літ.:* 1580.

**КЛІНАПАДОБНЫЯ ПРЫЛАДЫ ПРАЦЫ,** вырабы з дрэва, каменю, косці, металу, завостраныя на адным канцы (вастрыё) і тупыя на другім (абушок). Сустракаюцца на помніках розных археал. эпох — ад палеаліту да позняга сярэднявечча. Прызначаны для падоўжанага і папярочнага расшчаплення загатоўкі. Памеры К. п. п. ад 3—5 см да некалькіх дзесяткаў сантыметраў у даўжыню. Невял. выкарыстоўвалі для раскалвання касцей, вялікія — для дрэва.

*Літ.:* 1073.

**КЛІНОК,** курганны могільнік каля

в. Клінок Чэрвеньскага р-на. За 4 км на ПдЗ ад вёскі, у лесе. 10 насыпаў выш. 0,4—1 м, дыям. 4—6,5 м. Абследавала ў 1979 С. М. Васільева. У пашкоджаным кургане знойдзена металічная зярнёная пацерка. Верагодна, належаў дрыгавічам. *Ю. А. Заяц.*

**КЛІНЫ**, паселішчы і бескурганны могільнік каля в. Кліны Слаўгарадскага р-на.

Паселішча-1. На Пд ад вёскі, на ўсх. і паўд.-ўсх. берагах воз. Чырвонае, на Пн ад вусця р. Нямыльня. Адносіцца да *верхнедняпроўскай культуры* эпохі неаліту. Сляды паселішча выявіў у 1927 К. М. Палікарповіч.

Паселішча-2. На З ад вёскі, на 2-й надпоймавай тэрасе р. Сож (выш. 6 м над узроўнем вады). Выявіла ў 1979, даследавала ў 1980—81 106 м² А. Г. Калечыц. Культурны пласт да 0,5 м.

Знойдзена вял. колькасць адходаў крамянёвай вытворчасці і мікралітоідныя вырабы 1-й пал. эпохі мезаліту: канцавыя або рэтушаваныя скрабкі на адшчэпах, скрэблы, скоблі, вуглавыя, бакавыя, сярэдзінныя разцы, нажы, праколкі, свярдзёлкі, клінападобныя і з перахватам сякеры, пласцістыя наканечнікі стрэл.

Паселішча-3. За 0,2 км на Пн ад вёскі, ва ўрочышчы Прыстань. Даследавала ў 1989—90 Калечыц. Знойдзены крамянёвыя вырабы — скрабкі, праколка, сякера, пласцісты наканечнік стралы, адходы крамянёвай вытворчасці.

Паселішча-4. За 1,5 км на ПнУ ад паселішча-2, ва ўрочышчы Мсціж. Даследавала ў 1980—81 Калечыц (68 м²).

Знойдзена каля 700 вырабаў з крэменю: скрабкі, разцы, скоблі, сякеры, цёслы, наканечнікі стрэл, фрагменты ляпной керамікі, аздобленыя грабеньчатым, ямкавым, лінейным арнаментам. Паселішча датуецца неалітам (верхнедняпроўская культура) і бронзавым векам (сярэднедняпроўская культура).

Паселішча-5. За 150 м на Пн ад паселішча-4, на тэрасе левага берага р. Сож, ва ўрочышчы Туфлі. Выявіла і даследавала ў 1979 Калечыц. Пл. 3500 м².

Знойдзены скрабкі, скобля, камбінаваны скрабок-скобля, разцы, нажы, адходы крамянёвай вытворчасці, фрагменты ляпнога посуду. Паселішча адносіцца да эпохі неаліту (верхнедняпроўская культура), ранняй бронзы (сярэднедняпроўская культура), позняй бронзы, ранняга жал. веку.

Паселішча-6. За 1 км на З ад вёскі, на левым беразе р. Сож, ва ўрочышчы Грыўка. Выявіла ў 1981 і часткова даследавала Калечыц.




**Кліпа.** Саксонія (курфюрства): 1. ½ талера (аднабаковая) 1547 Іагана Фрыдрыха і Філіпа Гесенскага; 2. Талер 1719 Фрыдрыха Аўгуста І Моцнага. Рэч Паспалітая, 3. Орт 1760 пробны Аўгуста III, г. Гданьск. Іспанія (каралеўства), 4. 8 эскуда (золата) пробныя Філіпа II [1556—98]. 5. г. Ландау, манета асадная 1713 наміналам 2 гульдэны 8 крэйцараў 1702 (серабро).

Знойдзены шматлікія адходы крамянёвай вытворчасці, прылады працы (скрабкі, нажы, разцы, скобля, праколкі), наканечнікі стрэл, фрагменты ляпнога посуду верхнедняпроўскай і сярэднедняпроўскай культур ранняга жал. веку, арнаментаваныя грабеньчатымі і ямкавымі адбіткамі і іх спалучэннямі. Сярод знаходак пасудзіна, упрыгожаная валікамі.

Паселішча-7. На Пн ад могілак каля в. Кліны, ва ўрочышчы Высокая Грыва. Даследаваў у 1968 І. І. Арцёменка. Адносіцца да позняга бронзавага веку.

Бескурганны могільнік. За 1 км на ПдЗ ад вёскі, ва ўрочышчы Вудрышча. Даследаваў Арцёменка. Выяўлена 45 пахаванняў бронзавага веку.

*Літ.:* 479. *А. Г. Калечыц.*

**КЛІПА** (ад. швед. klippe рэзаць нажніцамі), назва манет квадратнай формы, квадратная металічная пласціна з адціснутымі на ёй выявамі звычайна ў традыцыйнай кампаноўцы круглай манеты. Выраблялі з мэтай паменшыць затраты працы, што патрабавала круглая манета (параплаўка адходаў ад вырубкі кружкоў-загатовак, наступная апрацоўка коўкай ці пракаткай металічнага ліста для новай вырубкі).

Да вырабу К. звярталіся звычайна ў экстрэмальных сітуацыях (напр., падчас ваенных дзеянняў). Шырока вядомы К. з пач. 16 ст. (каралеўства Данія, Швецыя) да сучаснасці. Вядомы сваёй арыгінальнай кампаноўкай талеры караля Рэчы Паспалітай Аўгуста II [1697—1706, 1709—33]. Да формы К. звярталіся пры вырабе пробных і мемарыяльных манет. У 2-й пал. 19 — пач. 20 ст. ў форме К. выпускалі прыватныя манеты пры дапамозе вырубнога штампа (грошы, што выраблялі прыватныя асобы ці прадпрыемствы з-за недахопу дзярж. плацежных сродкаў). Часам у якасці К. вызначаюць манеты на 6- або 8-гранных пласцінах (гл. *Макукіна*).

*Літ.:* 1684, 1735. *І. І. Сінчук.*

**КЛЮЧ,** жалезная прылада для адмыкання *замка.* Яго канструкцыя і форма залежалі ад тыпу замковага механізма. Найбольш стараж. К. (10—11 ст.) знойдзены на Беларусі ў час раскопак у стараж. Полацку, Навагрудку, Мінску, Ваўкавыску і інш. Адмыкаючая пласціна (круглая ці квадратная) у іх у адной плоскасці са стрыжнем.

З канца 11—12 ст. з'явіліся К., адмыкаючая пласціна якіх адагнута перпендыкулярна да стрыжня (знойдзены ў Ваўкавыску, Мінску і інш.). У 12 ст. выкарыстоўваліся К. ў выглядзе лопасці з бакавымі выразамі для спружынных штыфтаў (выяўлены амаль ва ўсіх стараж. гарадах Беларусі). Пазней выкарыстоўваліся і інш. мадыфікацыі К. для цыліндрычных навясных замкоў. Для ўразных замкоў К. мелі цыпель на канцы стрыжня, які пры паварочванні ўціскаў спружыну і перасоўваў засаўку. Такі ж прынцып дзеяння быў у К. для навясных замкоў з шарнірнай дужкай, што свабодна адкідвалася (трох-чатырохвугольнай і круглай формы). У адрозненне ад папярэдніх, яны мелі трубкавую аснову і параўнальна малыя памеры. У 17—18 ст. для вінтавых замкоў выкарыстоўвалі К. ў выглядзе стрыжня з нарэзанай паверсе разьбой, а для замкоў «шведскага» тыпу — з падоўжанымі пласцінкамі ці латачкамі. На працягу ўсяго сярэднявечча існавалі і прымітыўныя К.-адмычкі для камбінаваных і драўляных дзвярных замкоў. Гэта стрыжань з сагнутым ці прымацаваным на шарніры доўгім канцом для перасоўвання засаўкі.

*Літ.:* 148, 271, 385, 425, 552, 1346, 1431. *Г. М. Сагановіч.*

**КНЯЖЫЦЫ,** гарадзішча сярэдзіны 3-й чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. і эпохі Кіеўскай Русі, каля в. Княжыцы Шклоўскага р-на. На паўн. ускраіне вёскі, за 200 м на З ад шашы Ленінград — Адэса, на правым беразе р. Капуснік, пры ўпадзенні ў яе безназоўнага ручая. Мясц. назва Габрылёк. Пляцоўка авальная, памеры 25×18,5. Выш. над поймай ручая 3—4,5 м, з У умацавана падковападобным валам выш. да 3 м, шыр. 15—17 м (у цэнтры разбураны варонкамі ад авіябомб). Помнік выявіў і абследаваў у 1977 В. Ф. Капыцін, у 1983 абследавала В. М. Ляўко, у 1989 даследаваў 128 м² А. А. Седзін.

У культурным пласце знойдзены жал. падковы, нож, цуглі, лязо сякеры, шлакі, фрагменты шкляных бранзалетаў і керамічнага посуду (венчыкі прамыя або адагнутыя вонкі, на некаторых налеплены валік з косай насечкай). У мацерыку прасочваюцца слупавыя ямы. На ПдУ ад гарадзішча знаходзіцца адначаснае яму селішча пл. каля 2 га (не даследавана). *А. А. Седзін.*

**КОБРЫН,** горад, цэнтр Кобрынскага р-на, на р. Мухавец у сутоках з Дняпроўска-Бугскім каналам, за 52 км на У ад Брэста, чыг. станцыя на лініі Брэст — Гомель, вузел аўтадарог на Мінск, Брэст, Пінск, Ковель, Маларыту.

У пісьмовых крыніцах упамінаецца пад 1287. Паводле Іпацьеўскага летапісу «Се аз, князь Володимер, сын Васильков, внук Романов, пишу грамоту: дал есмь княгине своей, по своём животе город свой Кобрынь и с людьми, и с данью, како при мне даяли». З 1387 (паводле іншых звестак з 1404) цэнтр Кобрынскага княства, з 1519 старостваа, з 1566 у складзе Брэсцкага ваяводства. З 1589 меў магдэбургскае права і герб у выглядзе сахі на раллі. У 16—18 ст. цэнтр Кобрынскай эканоміі. Горад моцна пацярпеў у час войнаў сярэдзіны 17 — пач. 18 ст., да канца 18 ст. адноўлены. З 1795 у складзе Расійскай імперыі.

Да 15 ст. цэнтрам К. быў замак, абмежаваны ровам, правым і левым рукавамі р. Кобрынка. Гарадзішча стараж. К. размяшчалася на пясчаных узгорках левага берага р. Мухавец, мела дзядзінец (Верхні замак) і вакольны горад (Ніжні замак; гл. *Кобрынскія замкі*). Гандл. плошча спачатку знаходзілася на тэр. вакольнага горада. Пазней у сувязі з ростам насельніцтва і тэр. горада яна перанесена да сцен замка. Тут жа засн. першы касцёл, які згадваецца ў дакументах 2-й пал. 16 ст. Неўзабаве функцыю гандл. і гар. цэнтра ўзяла на сябе новая плошча, што ўзнікла на скрыжаванні шляхоў Брэст — Пінск і Пружаны — Ратна. Яна стала вызначальным элементам у архітэктурна-планіровачнай кампазіцыі К. З цягам часу вакол плошчы склалася прамавугольная сетка вуліц, сама плошча была забудавана па перыметры жылымі, грамадскімі і гандл. будынкамі: цэрквы і касцёлы знаходзіліся ўсярэдзіне прылеглых кварталаў ардынарнай забудовы. Паводле даных рэвізій 16 ст. (1549, 1563, 1597), ад гандл. плошчы пачыналіся 6 гал. вуліц, 4 з іх адпавядалі напрамку гандл. шляхоў (Берасцейская, Пінская, Ратненская, Астрамейская). У правабярэжнай частцы К. забудова была рэдкай, вял. плошчу займалі агароды, з канца 18 ст. тут вядома Гаршэчная вуліца (з пач. 20 ст. Ганчарная). На планах канца 18 — пач. 19 ст. гар. тэрыторыя мае дастаткова ясны геам. малюнак. Архітэктурна-мастацкі сілуэт горада ў гэты час фарміравалі будынкі Спасаўскага манастыра, Прачысценскай, Мікалаеўскай і Петрапаўлаўскай цэркваў, драўляныя будынкі касцёлаў, а таксама гар. ратушы. Замкавыя збудаванні былі часткова разабраны ў канцы 18 ст. У пач. 1970-х г. у час буд. работ на 6. пасадзе непадалёку ад замкаў на глыб. 1,5—2 м выяўлены рэшткі вулічнага насцілу з бярвён. Асаблівасці яго канструкцыі не зафіксаваны. У 1988 назіранні за землянымі работамі і збор пад'ёмнага матэрыялу праводзілі В. Я. Зайцава і І. І. Сінчук. На тэр. Ніжняга замка на беразе Дняпроўска-Бугскага канала знойдзены манеты сярэдзіны 16—18 ст. (пераважна медныя соліды Рэчы Паспалітай 1660-х г.), на тэр. Верхняга замка недалёка ад Спасаўскага манастыра выяўлены рэшткі дубовай пабудовы (магчыма, паўн.-зах. вежы), кераміка 12 ст., фрагменты скуранога абутку 12—15 ст. і цыліндрычных бутэлек 18 ст., на тэр. пасада ў раёне гандл. плошчы — кафля 1-й пал. 17 ст. Культурны пласт больш за 1,5 м, насычанасць знаходкамі невялікая.

*Літ.:* 892.

*С. П. Адамовіч, В. Я. Зайцава, І. І. Сінчук.*

**КОБРЫНСКІЯ ЗАМКІ.** Існавалі ў 14—18 ст. на р. Кобрынка. Размяшчаліся, відаць, на месцы дзядзінца і вакольнага горада. Паводле інвентароў 16 ст., умацаванні Кобрына складаліся з драўляных Ніжняга («Прыгародак») і Верхняга («Высокага») замкаў. На падыходзе да Ніжняга замка шлях перагароджвала Кобрынка, цераз якую быў мост. На яго трапляли праз вежу-браму. На другім канцы моста, апошні пра-

лёт якога быў пад'ёмны, стаяла яшчэ адна 2-павярховая вежа-брама. Ніжні замак ахоўваўся 5 вежамі, гароднямі і парканам. У адной вежы размяшчаўся млын. Шлях у Верхні замак ішоў праз вежу-браму і мост цераз абарончы роў, што раздзяляў замкі. Мост быў на палях з лазняй пасярод і ўпіраўся ў вежу-браму Верхняга замка. Размешчаны ў ёй пад'ёмны механізм падымаў перад брамай апошні пралёт моста. Акрамя брамы, тут стаялі яшчэ 4 вежы з гароднямі і парканам, на якіх размяшчаліся баявыя пляцоўкі — бланкаванне з крытымі дранкай стрэшкамі. Усе вежы былі накрыты гонтай. Рамонт К. з. рабіла феад. залежнае насельніцтва, прычым не толькі сяляне. У «Рэвізіі» за 1563 паведамляецца, што «...волоку... дано тым же млынарам на тесельство, вольную, с которое они службу тесельскую с топором пешо ку замку Кобринскому... два дни в тыйдень служити повинни». У 1597 узбраенне К. з. складалася з 2 «дел ляных», 5 серпянтынаў, 16 гакаўніц, 17 ручніц, 2 кіёў, серы, волава і інш. рыштунку. Ведаў «стрэльбай» пушкар, а рамантаваў яе спец. слесар. Апошні да таго ж абавязаны быў выраб-ляць у год 6 ручніц. Тры гантарэзы, якім было дадзена па 1 валоцы зямлі, штогод абавязваліся даваць на патрэбы замка 300 коп гонтаў. У канцы 18 ст. К. з. скапаны паводле загаду А. В. Суворава, які валодаў тады горадам. Замкавыя насыпы знесены ў 1840-я г. пры пракладцы Маскоўска-Варшаўскай шашы.

*Літ.:* 1200. *М. А. Ткачоў.*

**КО́ВЕНСКІ МАНЕ́ТНЫ ДВОР.** Пагадненне аб заснаванні двара ў г. Коўна (цяпер Каўнас) было дасягнута 6.7.1665 паміж падскарбіем вял. літоўскім і арандатарам манетнага двара А. Г. фон Горнам для выпрабу медных *солідаў* на суму 7180 тыс. *злотых* разам з манетным дваром у Мальбарку. Працаваў К. м. д. з 17.10.1665 да 15.1.1667, выбіў солідаў на суму 448 648 злотых, што пры агульным выкананні кантракта на 16 % на долю двара прыпадала 40 % аб'ёму вытворчасці медных солідаў Горна. Магчыма, усе соліды 1665 з ініцыяламі GFH на аверсе і на рэверсе з часткай герба падскарбія літоўскага І. К. Кіршэнштэйна (выява галавы аленя пад «Пагоняй») належаць да К. м. д. Не выяўлена прыкмет для адрознення солідаў 1666 К. м. д. ад Мальбаркскага манетнага двара. Солідаў 1667 не існуе, вытворчасць манет гэтага года вялася штэмпелямі 1666.

*Літ.:* 1595. *І. І. Сінчук.*

**КО́ЛАС,** курганны могільнік на тэрыторыі радзімічаў каля пас. Колас Жлобінскага р-на. На паўд. ускраіне пасёлка. 6 пашкоджаных курганоў выш. да 1,8 м, дыям. 10 м. Выявіў і даследаваў у 1974 У. У. Багамольнікаў. Раскапаны 1 курган. Пахавальны абрад — трупаспаленне. У насыпе і на гарызонце выяўлены рэшткі агароджы з апаленых калоў, знойдзены абломкі 2 ляпных гаршкоў. Датуецца 6—7 ст. н. э.

**КОЛТ,** жаночае ўпрыгожанне ў гарадах Стараж. Русі ў 11—13 ст. К. падвешвалі да галаўнога ўбору з 2 бакоў на ланцужках або стужках. У 11—12 ст. яго выраблялі з золата, серабра, упрыгожвалі перагародчатай эмаллю, аздаблялі зярненнем, завіткамі скані, чарненнем. У сярэдзіне К. звычайна пустацелыя. Мяркуецца, што ў іх змяшчалася тканіна, прамочаная духмяным маслам. На Берасцейскім гарадзішчы знойдзены К., спаяны з 2 сярэбраных пласцін, арнаментаваны ціснёным узорам з раслінных парасткаў. У *Вішчынскім грашова-рэчавым скарбе* знойдзены 4 сярэбраныя К. 2-й пал. 12 ст. (серабро, залачэнне, перагародчатая эмаль). З канца 12 ст. аналагічныя па форме і арнаменту, але больш танныя К. адлівалі ў каменных формах са сплаву волава і свінцу. Такі К. з вывавай 2 птушак, якія засцерагаюць «дрэва жыцця», знойдзены на Мінскім замчышчы.

*Літ.:* 354, 1067. *Г. В. Штыхаў.*

**КО́МПЛЕКСНЫ МЕ́ТАД** у археалогіі, сучасны метад навук. даследавання, які патрабуе для вывучэння пэўнай праблемы спалучэння групы металаў (агульнанавуковых,



**Колт** 12 ст. Гродна.



**Колты** 13 ст.



Алавяны **колт** 12—13 ст. з Мінскага замчышча.

спецыяльных і спецыфічных). Вынікае з задач дыялектычнай метадалогіі даследаваць прадмет усебакова, ва ўсіх сувязях і супярэчнасцях. Без выкарыстання К. м. немагчымы *сістэмны аналіз, структурны аналіз, мадэліраванне* гіст. працэсу, комплекснае даследаванне праблемы, якая ўзнікла пасля вызначэння адзінай мэты і дасягненне якой патрабуе паслядоўнага вырашэння шэрага інш. прыватных праблем. Выкарыстанне К. м. дазваляе перапраўляраць вынікі, атрыманыя з дапамогай розных метадаў, што рэзка павялічвае дакладнасць вывадаў. Так, пры вызначэнні храналогіі археал. помніка могуць адначасова выкарыстоўвацца, акрамя *параўнальна-тыпалагічнага метаду*, таксама метады геафізічнага, радыевугляроднага, люмінесцэнтнага, палеамагнітнага датавання. Даследаванне палеалітычных помнікаў немагчыма без супастаўлення геалагічных, стратыграфічных, палеаэкалагічных і археал. высноў, а таксама датаванняў метадамі фізіка-тэхнічных навук. Старaж. рэчы можна вывучаць пры дапамозе комплекснага аналізу (фізіка-хімічнага, тэхналагічнага, трасалагічнага ці функцыянальнага) паводле методыкі, распрацаванай у адпаведных навук. дысцыплінах. Пры даследаванні комплексу старaж. рэчаў, акрамя ўласна археал. метадаў (гл. *Методыка археалагічных даследаванняў)*, шырока выкарыстоўваюцца метады матэматычнай статыстыкі (статыстычны і *выбарачны метад).* Выяўленыя археал. комплексы рэчаў параўноўваюцца з этнаграфічным матэрыялам з мэтай вызначэння ступені сацыяльна-эканам. развіцця пэўнага старaж. этнасу. Выкарыстанне К. м. азначае пераход на новую вышэйшую ступень навук. даследаванняў.

*У. Ф. Ісаенка.*

**КОНТРАМАРКІРАВА́ННЕ МАНЕ́Т,** накладанне на аверс або рэверс манеты дадатковага невял. штампа, які рабіў яе законным плацежным сродкам або павышаў яе *намінальную вартасць.* Звычайна суб'ектам контрамаркіравання выступала дзяржава.

Шырока ўжывалася К. м. у антычных дзяржавах, пашырана ў нямецкіх княствах 15 ст. (вядома больш за 250 контрамарак на *грошах пражскіх).* У Рэчы Паспалітай абарачаліся контрамаркіраваныя *талеры «спадчыны каралевы Боны»* 1564, расійскія яфімкі з «прызнакам» 1654. Зрэдку рабілі К. м. прыватныя асобы, што ператварала агульнадзярж. манеты ў прыватныя. У 18 ст. вядома К. м. клеймамі ў выглядзе герба «Еліта», герба Патоцкіх «Пілава» з датай (17)24 і вензелем з ініцыялаў JLP на фоне літары B на 6-грашовіках 2-й пал. 17 ст. Рэчы Паспалітай, у выглядзе падвоенага герба Патоцкіх «Пілава» на фоне сэрца на медным грошы Аўгуста III [1733—63]. К. м. адрозніваецца ад клеймавання манет калекцыянерамі 19 ст. для пазначэння экземпляраў сваіх збораў.

*Літ.:* 1551, 1585, 1616, 1651, 1708.

*І. І. Сінчук.*

**КО́ПЫСКІ ЗА́МАК.** Існаваў у 14—18 ст. у г. п. *Копысь* Аршанскага р-на. З'яўляўся ваенна-адм. цэнтрам старaж. горада. Размяшчаўся на ўзвышаным левым беразе Дняпра, на месцы першапачатковага мысавага гарадзішча летапіснай Копысі. Гарадзішча круглаватае ў плане (каля 0,5 га) мела ўваход з усх. боку. Яго археал. даследаванні правёў у 1972 Э. М. Загарульскі. Прарэзкай вала зафіксаваны 2 буд. этапы. Першапачатковы вал быў насыпаны з дробнага пяску з гумусавамі праслойкамі, што сведчыць пра існаванне раней неўмацаванага паселішча. Старaж. вал выш. каля 5 м узведзены ў 2-й пал. 11 — пач. 12 ст. Пазней яго расшырылі і падсыпалі ўверх яшчэ на 2 м. У выніку ваенна-буд. работ структура ўмацаванняў гарадзішча значна змянілася. Цяпер перыметр вала складае 370 м, памеры ўнутранай пляцоўкі 80×60 м. У 16—18 ст. важную ролю ў планіровачнай структуры ўмацаванняў Копысі адыгрывалі невял. рэкі Страшаўка і Сморкаўка, якія абкружалі замак з 2 бакоў і ўпадалі ў Дняпро. Вусце Сморкаўкі было перагароджана дамбай, а воды абедзвюх рэк, падпёртыя плацінай млына, утваралі штучнае вадасховішча. Млын засцерагаў подступы да замка з Пд, У і ПнУ. Праезд у К. з. ішоў па запрудзе млына, якая падводзіла да пад'ёмнага моста перад замкавай брамай. У сувязі з размяшчэннем горада на скрыжаванні важных сухапутнага і воднага шляхоў ён часта трапляў у эпіцэнтр ваен. дзеянняў. У 1535 войска рус. ваяводы Шуйскага спаліла Копысь і яе наваколле. У час Лівонскай вайны 1558—83 горад у 1562 «опановали» рус. войскі «за тое, же помочь давали Инфлянтам». У 1580 «...Москва, то ест Серебреный з немалым войском... Копысу... велми выпустошили», аднак горад зноў быў заняты войскамі ВКЛ. Моцна пацярпела Копысь і ў рус.-польскую вайну 1654—67. Умацаванні сярэдневяковай Копысі адпавядалі рангу тагачаснага гандлёва-рамеснага горада з насельніцтвам больш за 2 тыс. чал. Рамонтам умацаванняў К. з. займалася гар. і навакольнае насельніцтва, у т. л. і новазаснаванага мяст. Барань. Мяшчане, сяляне, зямяне-шляхта, баяры панцырныя і путныя ў час ваеннай небяспекі павінны былі з'яўляцца для абароны Копысі, а ў мірны час адбываць у замку «старажоўшчыну». У 1597 па загаду кн. Мікалая Радзівіла ў Барані заснавана майстэрня-«кульня» па вытворчасці ядраў і куль для гармат і гакаўніц. Паводле распараджэння адміністратара К. з., у 1598 чатырнаццаць баранскіх «кульнікаў» павінны былі «на кожны рок давать до замку Копыского з кожной волоки куль железных великих... до дел Копыских по 30, до гаковниц Копыских куль по копе». Інвентар Копысі за 1651 дае звесткі пра абарончыя збудаванні К. з. У замку былі 2 брамы з «форткамі» — вялікая для ўезда з боку «места» і моцна нахіленая («опавшая») вежападобная, якая стаяла над Дняпром і патрабавала рамонту. Пэўную ролю ў абароне К. з. выконваў і вял. двухпавярховы дом, «розным маляваннем помалёваный», і абведзены кругом галерэяй верхняга бою — бланкаваннем. Усе гэтыя пабудовы былі абнесены частаколам. Да пач. руска-польскай вайны 1654—67 абарончыя ўмацаванні К. з. не былі прыведзены ў належны стан. Мясц. насельніцтва, распрапагандаванае манахамі і святарамі Куцеінскага манастыра, 13.5.1654 здало дрэнна ўмацаваны горад войску ваяводы Замятні Лявонцьева. Барон А. Маерберг, праязджаючы ў верасні 1661 праз Копысь, адзначаў, што горад абараняўся драўляным замкам, які стаяў пасярэдзіне высокага пагорка. У 1668 пачаліся вял. работы па рэканструкцыі ўмацаванняў К. з. і запруды млына, дзякуючы якой замкавы «капец вада наўкола аблівала». Замак умацавалі земляным валам і 4 бастыёнамі — «больверкамі» (у 1668 тры з іх былі ўжо ўзведзены, а будаўніцтва чацвёртага заканчвалася). Была пакінута толькі адна ўязная брама, перад якой размяшчаліся пад'ёмны мост і вадзяны млын. У цэнтры замкавага двара знаходзілася студня з пад'ёмным колам. Работы па перабудове ўмацаванняў К. з. працягваліся ў 1670 і 1688. На той час тут меліся 4 гарматы, 22 жал. гакаўніцы, 4 мушкеты, запас пораху, волава, ядраў, куль, а таксама харугва-сцяг на малінавым шоўку кн. Радзівіла Багуслава. Паводле інвентара Копысі ад 18.10.1684 замкавыя ўмацаванні былі моцна «надруйнаванымі». У арсенале К. з. налічвалася 3 цэлыя палявыя гарматы, 17 даўжэйшых і 5 карацейшых гакаўніц, запас ядраў, пораху, волава, кнатоў, рознай амуніцыі. У час Паўн. вайны 1700—21 рус. войскі, якія адступалі на Пд, у 1707 поўнасцю спалілі Копысь, замкавыя ўмацаванні і забралі ўсю зброю з арсенала. Сярод праведзеных рус. войскамі ў Паўн. вайну фартыфікацыйных работ у Копысі інвентары згадваюць толькі ўзвядзенне штыкету на земляным вале. Усе наступныя 12 інвентароў Копысі за 1726—73 удакладняюць планіроўку замка і паведамляюць пра элементы яго ўмацаванняў: 4 бастыёны і драўляныя сцены (палісад), якія рэгулярна рамантаваліся. Уязная драўляная вежа-брама

мела двайныя вароты з магутнымі запорамі. Яе 2-і паверх займала зала з 4 вокнамі, вакол якой была зроблена кругавая галерэя верхняга бою. Памяшканне залы выкарыстоўвалася для захоўвання ручной агнястрэльнай зброі, у якасці лямуса, а таксама бажніцы, дзе спраўлялі «святую імшу». Вежа была накрыта гонтай. Яе завяршаў бляшаны флюгер-«ветранік» у выглядзе арла. Пасля 1772 умацаванні К. з. больш не аднаўляліся і з цягам часу зніклі. *М. А. Ткачоў.*

**КО́ПЫСКІЯ ГАРАДСКІ́Я ЎМАЦАВА́ННІ.** Існавалі ў 14—18 ст. у г. п. *Копысь* Аршанскага р-на. Утваралі прамавугольнік (перыметр больш за 2 км), з У прыкрывалі паселішча і *Копыскі замак.* У 14—18 ст. на подступах да К. г. у. з У і Пн, на рэках Страшаўка і Сморкаўка размяшчаліся штучныя ставы, якія жывілі вадой абарончыя равы лініі ўмацаванняў. Спецыяльныя каркасна-палевыя канструкцыі прапускалі ваду пад земляным абарончым валам. Паводле інвентара Копысі за 1561 умацаванні мелі 4 брамы — Шклоўскую, Гарадзецкую, Горскую і Аршанскую, якія адчынялі шляхі ў адпаведныя населеныя пункты. У пач. руска-польскай вайны 1654—67 гар. ўмацаванні не былі прыведзены ў належны стан. Да таго ж у выніку баявых дзеянняў яны моцна пацярпелі і мелі патрэбу ў рамонце. Інвентар ад 10.1.1661 паведамляе пра зрубы-гародні на земляным вале, а таксама Шклоўскую і Аршанскую брамы, на якіх не было дахаў. Звесткі пра вежы адсутнічаюць. У 1663 аднаўлены гар. паркан, вежы і Горская брама. У 1668 усё «места» Копысь знаходзілася «ў паркане і на ізбіцах». Зноў стаялі ўсе 4 брамы, з якіх Гарадзецкая была перайменавана ў Крупніцкую, паколькі ад яе пачынаўся шлях у бок мяст. Крупкі. Акрамя таго, у лініі гар. абароны меліся 3 брамы-«форткі»: 2 выводзілі да Дняпра, а 3-я — у поле. Горад паступова пачаў адраджацца і расці. Узніклі слабоды на Заваллі, «пад парканам», на прадмесці і за Аршанскай брамай. Паводле інвентара Копысі ад 18.10.1684, агульная даўжыня К. г. у. складала каля 2,2 км. У час Паўн. вайны 1700—21 некалькі дзесяткаў палкоў рус. войск разам з сялянамі Аршанскага пав. і Магілёўскай эканоміі ў 1707 узводзілі вакол Копысі бастыённыя ўмацаванні, т. зв. Пятроўскі вал. Гэта была спроба сарваць пераправу шведскага войска цераз абмялелы Днепр. У 1707 рус. войскі, якія адступалі з Копысі, цалкам спалілі К. г. ў. і вывезлі ўсю зброю. Інвентары за 1726—73 згадваюць толькі 3 брамы — Аршанскую, Шклоўскую і Крупніцкую (Горская, відаць, была разабрана). Па апісанні можна меркаваць, што брамы мелі аднолькавую канструкцыю: 2-ярусныя, з 2 варотамі, зрублены з брусоў. На доле месціліся 2 каморкі, адна з якіх, т. зв. «іздобка», служыла жытлом для вартаўнікоў. Уваход у брамы з боку поля ажыццяўляўся па пад'ёмных мастах, перакінутых цераз вадзяны абарончы роў. Пасля 1772 патрэба ў К. г. у. адпала і яны прыйшлі ў непрыгоднасць. Да нашага часу ад К. г. у. захаваліся нязначныя рэшткі земляных насыпаў. Даследаваў у 1982 М. А. Ткачоў. *М. А. Ткачоў.*

**КО́ПЫСЬ,** гар. пасёлак у Аршанскім р-не, на левым беразе Дняпра. За 30 км на Пд ад Оршы, за 1,5 км ад чыг. ст. Копысь на лініі Орша — Магілёў, на аўтадарозе Орша — Шклоў.

Гарадзішча стараж. К. пад назвай Пятроўскі вал размешчана на левым беразе Дняпра, пры ўпадзенні ў яго невял. р. Смаркоўка. Пляцоўка авальна-падоўжанай формы, памер 90×75 м, умацавана валам выш. да 5 м, з Пд і Пн ёсць выступы накшталт бастыёнаў, звязаныя з больш познімі змяненнямі канфігурацыі гарадзішча. У старажытнасці гэта было мысавае гарадзішча пл. 0,5 га, мела круглаватую форму. Даследавалі ў 1950 і 1962 Л. А. Міхайлоўскі, у 1968—69 Г. В. Штыхаў, у 1972 Э. М. Загарульскі, даследавана 664 м$^2$. Культурны пласт 0,8—2,2 м.

Знойдзены вял. колькасць прылад працы, разнастайныя рэчы побыту, у т. л. жал. сякера і абломак ляза сякеры, 62 нажы, 6 нажніц, 22 замкі і ключы, 2 крэсівы, 2 рыбалоўныя кручкі, петлі ад куфраў, дужкі ад вядзёр, лыжкар, мёдарэзка, пісала сярэдзіны 13 ст.; сельскагаспадарчыя прылады: фрагменты 3 жал. сярпоў, абломак касы-гарбушы, каменныя жорны. Сярод вырабаў з каляровых металаў — сплецены з дроцікаў бранзалет, званочак, зоркавая спражка, крутарогая лунніца, пярсцёнак са шчытком, 3 фрагменты бронзавых бранзалетаў, падвеска (магчыма, колт), 2 падкованападобныя фібулы са спіральна загнутымі канцамі. Пры гар. характары матэрыяльнай культуры прыкметы мясц. рамёстваў прасочваюцца слаба, за выключэннем касцярэзнай справы, пра што сведчаць рагавыя абрэзкі (200 кавалкаў), цэлыя вырабы з косці (абломак накладкі з цыркульным арнаментам, двухбаковыя грабяні, 2 касцяныя шахматныя фігуркі — ладдзя і пешка, магчыма, з аднаго шахматнага набору). Рамеснікі маглі жыць за межамі дзядзінца — на пасадзе. Ёсць цікавыя знаходкі, звязаныя з вайсковай справай,— абломак перакрыжавання шаблі, 13 наканечнікаў стрэл, цуглі з кольцамі, 3 фрагменты шпор. Цікавай знаходкай з'яўляецца палавіна бронзавага наверша булавы 12—13 ст. з пірамідальнымі шыпамі, прастора паміж якімі ўпрыгожана лініямі буйназярністага ўзору. Выяўлены 334 шкляныя бранзалеты, 8 пацерак, 3 донцы, сценкі і венчык шкляных пасудзін. Унікальнай знаходкай з'яўляецца бронзавы нацельны абразок з выявай святых Барыса і Глеба ў поўны рост, які ўзыходзіць да кіеўскай іканаграфіі. Да прывазных вырабаў належаць фрагменты чырвонагліняных амфар. Сярод позніх матэрыялаў вылучаецца кафля 15—18 ст., вытворчасцю якой славілася К.

Паводле археал. даследаванняў гарадзішча ўзнікла ў 11 ст., збудаванне вала адносіцца да 2-й пал. 11 — пач. 12 ст. Гарадзішчу папярэднічала неўмацаванае паселішча, якое існавала нядоўга. Пасад размяшчаўся на ПнУ ад гарадзішча, на тэр. сучаснага гар. пасёлка. У час земляных работ тут выяўлены сляды паселішча, якое абследаваў у 1969 Штыхаў. Культурны пласт 1,4 м. Знойдзена кераміка 12—13 ст. і 14—17 ст.

К. згадваецца ў Ніканаўскім летапісе пад 1059, у Сафійскім першым летапісе, Цвярскім летапісе і Уладзімірскім летапісе пад 1060. У час паходу Уладзіміра Манамаха на Мінск у 1116 К. захоплена яго сынам смаленскім кн. Вячаславам, можна меркаваць, што яна з'яўлялася ўмацаваным пунктам Полацкай зямлі, пазней адышла да Смаленска. У сярэдзіне 12 ст. К. упамінаецца як пункт збору гандл. пошліны на карысць смаленскіх князёў з тавараў, якія правозілі па Дняпры і за якія выплачвалі «погородие», пра што сведчыць устаўная грамата кн. Расціслава Мсціславіча Смаленскай епіскапіі 1136. Ад К. належала 6 грыўняў «погородня», якое збіралася, як правіла, з гарадоў. З 2-й пал. 14 ст. К. у складзе ВКЛ. У пач. 16 ст. горад належаў кн. Астрожскім, з 1594 — Радзівілам, у 1695—1744 ва ўладанні прынцэс Нейбургскіх, потым зноў Радзівілаў. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Расійскай імперыі.

*Літ.:* 388а, 388б, 793а, 1346.

*А. М. Ваганава.*

**КОРД,** сякучая зброя блізкага бою з адналязовым простым або злёгку выгнутым клінком. Уяўляў сабой паменшаны меч (пераходны варыянт зброі ад мяча да шаблі). Быў пашыраны ў сярэдневяковай Зах. Еўропе. На Беларусі шырока выкарыстоўваўся ў 15—17 ст., калі стаў уваходзіць у баявы рыштунак шляхецкага войска. Пазней, як і шабля, доўга заставаўся асабістай зброяй дробнай шляхты. У пісьмовых крыніцах 16—18 ст. кордам часта называлі сякучую зброю з доўгім клінком. На Беларусі цэлы корд знойдзены археолагамі каля г. Ліда.

*Літ.:* 1216, 1428, 1457.

*Г. М. Сагановіч.*

**КО́САЎШЧЫНА,** курганны могільнік каля в. Косаўшчына Лідскага р-на. За 1,5 км на З ад вёскі, каля дарогі на в. Калдобы. Захавалася 13 насыпаў дыям. 6—14 м, выш. 0,7—1 м. Каля падножжа асобных курганоў прасочваюцца аплыўшыя раўкі, месцамі каменныя вымасткі на паверхні насыпаў. Усе курганы абкладзены камянямі. Адкрыла ў 1955 Ф. Д. Гурэвіч. У 1974—76 Я. Г. Звяруга і В. С. Вяргей раскапалі 7 курганоў.

У З выяўлены вянкі з камянёў роз-

най велічыні, складзеныя ў 2—3 ярусы. Насыпы 2 іншых курганоў перакрыты зверху каменнымі вымасткамі. Пахавальны абрад — трупаспаленне. У 5 выпадках рытуальныя вогнішчы прасочваліся на гарызонце па ўсёй плошчы курганоў (у насыпах з каменнымі вянкамі яны выходзілі за іх межы). Пахавальны інвентар: 4 наканечнікі коп'яў (2 ланцэтападобныя, ромбападобны і лаўралісты), вузкалязовая баявая сякера, шыла, спражка, пярсцёнкападобнае (паўтараабаротнае) бронзавае скроневае кольца, абломкі пашкоджаных агнём бронзавых упрыгожанняў. Сабрана значная колькасць ганчарнай арнаментаванай керамікі з разнастайнымі венчыкамі. Могільнік належаў балцкім (усх.-літ.) плямёнам, датуецца 10—11 ст.

*Літ.:* 195а, 427, 436. *Я. Г. Звяруга.*

**КОССЕ,** стаянка эпохі мезаліту каля в. Коссе Асіповіцкага р-на. За 700 м на З ад вёскі, на 2-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Бярэзіна. Разворваецца. Адкрыў у 1982 У. П. Ксяндзоў. Знойдзены крамянёвыя пласціны і адшчэпы з рэтушшу па краі, нуклеусы, праколка, разец, а таксама фрагменты ляпнога посуду ранняга жал. веку.

**КОСЦІ З НАДПІСАМІ І МАЛЮНКАМІ.** Косці жывёл і птушак з надпісамі і малюнкамі (гл. *Графіці)* вядомы з часоў палеаліту, найб. пашыраны ў час Кіеўскай Русі. Надпісы або малюнкі наносіліся на распараныя косці цвёрдымі і вострымі прадметамі. Знойдзены арнаментаваныя косці на стаянках *Юравічы* (Касцюковіцкі р-н) і *Юдзінава* (Бранскай вобл.). Пласціны і накладкі з раслінным і тэраталагічным арнаментам выяўлены ў Ваўкавыску, накладкі — у Мінску, Полацку, Тураве, Лукомлі (выявы льва). Больш за 100 абломкаў касцей з надпісамі і малюнкамі знойдзена на гарадзішчы *Маскавічы* Браслаўскага р-на. Знакі падзяляюцца на асобныя літары, лігатуры, ідэаграмы, некаторыя маюць сувязь са скандынаўскім рунічным пісьмом (гл. *Руны).* *Л. У. Дучыц.*

**КОЎШ,** гл. ў арт. *Бандарныя вырабы.*

**КРАКАЎСКІ АРХЕАЛАГІЧНЫ МУЗЕЙ.** Створаны ў 1850 на базе некалькіх музеяў і прыватных калекцый. Каля 500 тыс. экспанатаў, у т. л. некалькі дзесяткаў тысяч археал. знаходак з Беларусі. Найбольшая частка з іх паступіла ў музей ад польскага вучонага З. *Глогера* (прылады працы эпохі бронзы і ранняга жал. веку). У дарэвалюцыйны час туды трапілі знаходкі В. *Шукевіча* з раскопак каля в. Салапяцішкі (Воранаўскі р-н): жалезная зброя, нажы, крэсівы, спражкі, бронзавыя і сярэбраныя пярсцёнкі, скроневыя кольцы, шкляныя пацеркі і інш.; дзённік Ф. *Вярэнькі* з раскопак 36 курганоў каля в. Пуцілкавічы (Ушацкі р-н), археал. карта ваколіц в. *Нача* (Воранаўскі р-н), складзеная Шукевічам. Ёсць знаходкі з раскопак курганоў каля в. Янушкевічы (Лагойскі р-н): 2 бранзавыя бранзалеты з выявамі стылізаваных галоў жывёл на канцах, 3 вітыя бранзалеты з завязанымі канцамі, спіралепадобныя падвескі (ранняе сярэднявечча) і інш.

*Літ.:* 897. *Л. Д. Побаль.*

**КРАМАНЬЁНЦЫ,** неаантрапы, людзі сучаснага тыпу (Homo sapiens), якія паявіліся на Зямлі 50—40 тыс. г. таму назад. Назву атрымалі ад грота Кра-Маньён (Францыя), дзе ў 1868 французскі археолаг Э. Лартэ знайшоў 5 чалавечых шкілетаў разам з крамянёвымі прыладамі працы арыньякскага тыпу.




Да арт. **Косці з надпісамі і малюнкамі.** Малюнак на косці. Канец 13 — пач. 14 ст.

Асноўныя рысы К.: прамы высокі лоб, высокае скляпенне і вял. ёмістасць чэрапа, шырокі твар, малая адлегласць паміж вачамі і высокі рост. Шматлікія знаходкі рэштkaў К. у Еўропе і за яе межамі сведчаць аб тым, што з самага ранняга перыяду існавання па марфалагічнаму тыпу падзяляліся на некалькі расавых варыянтаў. Чарапы людзей з грота Грымальдзі (Італія), якія жылі 30 тыс. г. таму назад, сумяшчалі ў сабе еўрапеоідныя і негроідныя рысы. Чарапы людзей са стаянкі Сунгір Уладзімірскай вобл. (25 тыс. г. да н. э.) вызначаюцца як еўрапеоіднымі, так і мангалоіднымі рысамі. Ад нашых сучаснікаў адрозніваюцца толькі больш масіўным шкілетам.

*Літ.:* 27, 1167, 1259. *Л. І. Цягака.*

**КРАМЯНЕЦКАЕ СВЯЦІЛІШЧА,** помнік язычніцкага культу каля в. Крамянец Лагойскага р-на. За 600 м на ПнУ ад вёскі, у лесе, дзе размешчаны т. зв. Дажджбогаў (Святы) камень. Даўж. каменя 1,03 м, шыр. да 0,7 м, выш. 0,6 м. На амаль плоскай яго паверхні ёсць адпаліраваныя паглыбленні штучнага паходжання: 3 авальныя (даўж. ад 0,2 да 0,36 м, шыр. 0,15—0,2 м) і 2 круглыя талеркападобныя (дыям. каля 0,2 м). Да гэтага часу да каменя ў час свят (найперш на Вялікдзень) прынята прыносіць ахвяраванні — у асноўным манеты або кветкі. Паводле павер'я, гэта дапамагае пры розных няшчасцях. Напр., каб выклікаць дождж, некалькі ўдоў павінны павярнуць або прыўзняць камень.

У 1986 Э. М. Зайкоўскі правёў вакол Дажджбогава каменя археал. раскопкі (ускрыта 19 м²). У культурным пласце таўшч. ад 0,1 да 0,4 м знойдзены неапрацаваныя крамяні, невыразныя рэштки жал. вырабаў, дарэвалюцыйныя і сучасныя манеты. У выніку раскопак высветлена, што Дажджбогаў камень знаходзіцца пасярод выбрукаванай меншымі камянямі прамавугольнай пляцоўкі памерам 2,8×3 м, арыентаванай па магнітных полюсах. На З да пляцоўкі прымыкаў невял. выступ трапецападобнай формы, складзены з камянёў. Верагодна, што круглыя талеркападобныя паглыбленні на камені рабіліся па асацыяцыі з формай Сонца ў гонар Дажджбога. Раней паблізу каменя быў калодзеж, вада з якога лічылася святой.

*Літ.:* 164. *Э. М. Зайкоўскі.*

**КРАНІЯЛОГІЯ** (грэч. kranion чэрап + logos навука), раздзел анатоміі чалавека і жывёл, які вывучае індывідуальныя і групавыя варыяцыі памераў, формы чэрапа і асобных яго частак. Краніялагічныя даследаванні шырока выкарыстоўваюцца ў антрапалогіі, у антрапагенезе даныя К.— пры вызначэнні этапаў фізічнай эвалюцыі малпаў і чалавека, у расазнаўстве — для высвятлення шляхоў фарміравання расавых тыпаў, зменлівасці іх у часе і прасторы, у этнічнай антрапалогіі — для вызначэння генетычнай асновы фарміравання плямён і народаў пры вырашэнні пытанняў іх этнагенезу.

Для краніялагічных даследаванняў выкарыстоўваюцца метады вымярэння спец. інструментамі (краніяметрыя), апісанне структурных асаблівасцей па адпаведных шкалах (краніяскапія), вычэрчванне формы чэрапа ў розных плоскасцях і праекцыях пры дапамозе спец. прылад (краніяграфія). У аснову праграмы сучасных краніялагічных даследаванняў пакладзена методыка нямецкага анатама Р. Марціна. Рэканструкцыю твару па чэрапе сав. антраполагі праводзяць паводле методыкі М. М. Герасімава. Краніялагічнае вывучэнне стараж. ўсх.-слав. насельніцтва ў сувязі з яго этнічнай гісторыяй пачаў А. П. Багданаў, працягвалі В. В. Бунак, Г. Ф. Дэбец, Т. А. Трафімава, Т. І. Аляксеева, В. П. Аляксееў і інш. Калекцыі краніялагічных матэрыялаў са стараж. пахаванняў на тэр. Беларусі пачалі стварацца ў 2-й пал. 19 ст. Частка іх захавалася ў НДІ і Музеі антрапалогіі пры Маскоўскім ун-це і складае 160 чарапоў. Серыі чарапоў з тэр. Беларусі захоўваюцца ў Вільнюскім (67 экз.) і Кракаўскім Ягелонскім (81 экз.) ун-тах.

У 1920-я г. матэрыялы з раскопак А. М. Ляўданскага і І. А. Сербава ляглі ў аснову першай краніялагічнай калекцыі Беларускай АН, якая налічвала больш за 100 чара-

поў з курганных пахаванняў 10—13 ст. полацкіх *крывічоў, дрыгавічоў, радзімічаў* і ўпершыню даследавана ў 1932 Дэбецам. У гады Вял. Айчыннай вайны яна была знішчана. У пасляваенныя гады ў выніку раскопак курганных і бескурганных могільнікаў на тэр. Беларусі супрацоўнікамі аддзелаў археалогіі Ін-та гісторыі АН Беларусі, БДУ і Гродзенскага ун-та і шэрага музеяў краніялагічная калекцыя адноўлена і дазваляе характарызаваць фізічны тып насельніцтва Беларусі розных гіст. перыядаў. Краніялагічныя калекцыі захоўваюцца ў Ін-це гісторыі АН Беларусі, БДУ імя У. І. Леніна, Гродзенскім ун-це імя Ф. Скарыны, найбольшая калекцыя, каля 600 экз., у Ін-це мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі, адзінкавыя экземпляры — у абл. краязнаўчых музеях. Стараж. насельніцтва бронзавага веку прадстаўляюць 2 мужчынскія чарапы з раскопак М. М. Чарняўскага (г. п. Краснасельскі Ваўкавыскага р-на, культура шнуравой керамікі, сярэдзіна 2-га тысячагоддзя да н. э.) і А. Г. Калечыц (пас. Пралетарскі Веткаўскага р-на, сярэднедняпроўская культура, 1-я пал. 2-га тысячагоддзя да н. э.). Да перыяду 10—13 ст. адносяцца 250 чарапоў з курганных пахаванняў у Заслаўі (Г. В. Штыхаў, Ю. А. Заяц), вёсках Дарахі Гарадоцкага, Домжарыцы Лепельскага (Штыхаў), Перавоз Глыбоцкага (Л. У. Дучыц), Ізбішча Лагойскага (Штыхаў, В. У. Казей), Малыя Зводы Брэсцкага, Войская, Хацінова, Кусцічы Камянецкага (Т. М. Каробушкіна), Вензаўшчына Шчучынскага (А. В. Квяткоўская) р-наў, у Навагрудку (Ф. Д. Гурэвіч, К. В. Паўлава). Да перыяду 14—17 ст. адносяцца каля 190 чарапоў. Самыя вял. па колькасці серыі выяўлены ў могільніках каля вёсак Горы Горацкага (Ш. І. Бекцінееў), Хведавічы Смаргонскага (Я. Г. Звяруга) р-наў, Салігорска (Л. У. Калядзінскі), з каменных магіл каля вёсак Клепачы, Навасёлкі Зэльвенскага, Куклі Воранаўскага, Мінеўшчына Ваўкавыскага (Квяткоўская) р-наў. Калекцыя з вясковых могілак Беларусі 18—19 ст. (І. І. Салівон) складае каля 200 экз. Краніялагічныя даследаванні ў сувязі з пытаннямі этнагенезу вядуць супрацоўнікі Ін-та мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі Салівон, А. І. Кушнір, І. У. Чаквін.

*Літ.:* 29, 32, 54, 1040, 1041, 1167.

*І. І. Салівон, А. І. Кушнір.*

**КРАПІЎНА,** курганны могільнік 12—16 ст. каля в. Крапіўна Аршанскага р-на. На левым беразе р. Крапівенка (цяпер яр), за 500 м ад яе вусця пры ўпадзенні ў Дняпро. 22 паўсферычныя насыпы выш. 0,5—2 м, дыям. 4—12 м. Упершыню згадваюцца ў 1926 Д. Васілеўскім, даследавала 3 курганы ў 1990 В. М. Ляўко. Выяўлены 3 адзіночныя і 1 парнае (жанчына з дзіцем) пахаванні. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў падкурганных ямах. У адным з курганоў выяўлены рэшткі абгарэлага драўлянага насцілу. Сярод знаходак фрагменты гаршкоў 12—16 ст., шлак каляровага металу. Паблізу могільніка ўздоўж Дняпра фіксуецца паласа (шыр. да 100 м) культурнага пласта магутнасцю да 0,6—0,7 м, дзе знойдзена познасярэдневяковая ганчарная кераміка. Магчыма, тут размяшчалася селішча, адпаведнае па часе могільніку. У больш познія часы могільнік выконваў функцыю рытуальнага аб'екта: тут адзначаліся дні памінання памерлых.

*Літ.:* 190, 505. *В. М. Ляўко.*



Фрагмент гаршка днепра-данецкай культуры з паселішча-5 **Краснаселле.**




**Краснасельскі археалагічны комплекс.** План-схема: 1 — запаведнік з нераскапанымі шахтамі; 2—3 — раскопы шахтаў; 4, 6, 7 — стаянкі-майстэрні; 5 — стаянка і селішча; 8 — майстэрня «Тры сасны»; 9 — могільнік культуры шарападобных амфар.

**КРАСНАСЕ́ЛЛЕ,** археал. помнікі каля в. Краснаселле Хойніцкага р-на.

П а с е л і ш ч а-1 эпох мезаліту і неаліту. За 3 км на ПнЗ ад вёскі, на ўсх. схіле пясчанай грады. Выявіў у 1961 і даследаваў у 1962, 1972 У. Ф. Ісаенка. Культурны пласт 0,3 м, захаваўся месцамі.

Знойдзены крамянёвыя вастрыі, разцы, скрабкі, нажы, мікраліты, наканечнікі стрэл, фрагменты глінянага ляпнога посуду з грабеньчата-накольчатым арнаментам.

П а с е л і ш ч а-2. За 2 км на Пн ад вёскі, з паўн.-ўсх. боку пагорка. Выявіў у 1962 Ісаенка. Культурны пласт моцна пашкоджаны. Знойдзены посуд *днепра-данецкай культуры.* Раскопкі не праводзіліся.

П а с е л і ш ч а-3. За 0,5—1 км на ПнУ ад цэнтра вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе. Выявіў у 1962, абследаваў у 1972 і 1986 Ісаенка. Культурны пласт захаваўся толькі па краях пляцоўкі, у сярэдзіне перакапаны і разбураны. Раскопкі не праводзіліся.

П а с е л і ш ч а-4 днепра-данецкай культуры і палескай групы *шнуравой керамікі культур.* За 1,5 км на У ад вёскі, ва ўрочышчы Царкавішча, на пясчаным узгорку. Выявіла і даследавала ў 1976 Т. М. Каробушкіна, абследаваў у 1980 Ісаенка. Культурны пласт захаваўся часткова. На пляцоўцы 50×30 м сабраны фрагменты гліняных ляпных гаршкоў і крамянёвыя прылады працы эпохі неаліту і бронзавага веку.

П а с е л і ш ч а-5. За 2,5 км на У ад вёскі, на паўд. схіле пясчанага пагорка 1-й надпоймавай тэрасы. Узровень пляцоўкі над поймай 3—4 м. Выявіў і даследаваў у 1980 Ісаенка. Культурны пласт да 0,5 м.

На пл. 2 га выяўлены 4—5 агнішчаў, фрагменты гліняных ляпных вастрадонных гаршкоў днепра-данецкай культуры, больш за 200 крамянёвых прылад працы (наканечнікі стрэл, скрабкі, скоблі, нажы), а таксама кераміка бронзавага і жал. вякоў.

*У. Ф. Ісаенка, Т. М. Каробушкіна.*

**КРАСНАСЕ́ЛЬСКІ АРХЕАЛАГІ́ЧНЫ КО́МПЛЕКС,** група помнікаў матэрыяльнай культуры ад эпохі мезаліту да позняга сярэднявечча каля г. п. Краснасельскі Ваўкавыскага р-на. Уключае каля 10 стаянак, крэменездабыўныя шахты, крэменеапрацоўчыя майстэрні, селішча, могільнікі, феад. сядзібы, культавыя збудаванні.

У наваколлі г. п. Краснасельскі шмат адорвеняў крэйды, якія ўтрымліваюць у сабе крамянёвыя канкрэцыі. Крэмень са стараж. часоў прыцягваў увагу як сыравіна для вырабу прылад працы. Таму ў гэтым раёне выяўлена шмат помнікаў, звязаных са здабычай і апрацоўкай крэменю. Першымі ў 1920 выяўлены і пачалі даследавацца крэменездабыўныя шахты. У 1958 недалёка ад іх знойдзена майстэрня па апрацоўцы крэменю. У 1970—80-я г. археал. аб'екты каля г. п. Краснасельскі прыцягнулі ўвагу многіх вучоных. У розны час археал. даследаванні каля г. п. Краснасельскі вялі Б. Рыдзеўскі, З. Шміт, Н. М. Гурына, М. М. Чарняўскі, М. У. Вераціла, А. М. Гутоўскі, В. Я. Кудрашоў,

В. Л. Ліпніцкая, А. М. Мядзведзеў, А. В. Квяткоўская, якія выявілі і вывучылі шэраг каштоўных помнікаў, што склалі К. а. к. Археал. даследаваннямі ўстаноўлена, што першапачатковае засяленне наваколляў г. п. Краснасельскі датуецца раннім мезалітам. Пра гэта сведчаць знойдзеныя тут крамянёвыя наканечнікі стрэл, аналагічныя вырабам арэнсбургскай культуры (9-е тысячагоддзе да н. э.). Найбольшая колькасць помнікаў, выяўленых каля пасёлка, адносіцца да эпох неаліту і бронзы. Самыя цікавыя з іх — унікальныя крэменездабыўныя шахты, майстэрні, якія існавалі 5—3 тыс. гадоў таму назад. У адной з шахтаў знойдзена пахаванне ***шнуравой керамікі культуры.*** Непадалёку ад шахтаў выяўлены і даследаваны могільнік ***шарападобных амфар культуры.*** На стаянках па берагах р. Рось, апрача шматлікіх рэшткаў крэмене-апрацоўкі і крамянёвых прылад працы, ёсць знаходкі керамікі позняга этапу ***нёманскай культуры*** і ***тшцінецкай культуры.*** Жыццё ў гэтым раёне не спынялася і ў жал. веку. На стаянках 4 і 5 знойдзена шмат фрагментаў керамікі і некалькі бронзавых фібул 1 ст. н. э. За 500 м на У ад пасёлка на селішчы ранняга сярэдневечча выяўлены асновы 2 жытлаў, верагодна, зрубнай канструкцыі, з рэшткамі печаў-каменак і гасп. яма. На селішчы каля в. Навасёлкі (прымыкае да г. п. Краснасельскі) раскапаны падмурак драўлянай пабудовы з кафлянай печчу. Тут жа выяўлены фрагменты кухоннай, сталовай і буд. керамікі, шкляны посуд, манеты Рэчы Паспалітай 1760—90 г. У К. а. к. уключаны і сярэдневяковы могільнік ва ўрочышчы Мінеўшчына.*В. Л. Ліпніцкая, М. М. Чарняўскі.*

С т а я н к а-4 эпохі неаліту і бронзавага веку. За 500 м на Пд ад пасёлка, на левым беразе р. Рось, каля ўрочышча Піскаўшчына. Выявіў і даследаваў 295 $м^2$ у 1984 Кудрашоў. Культурны пласт 0,2—0,3 м. Выяўлены рэшткі 7 вогнішчаў дыям. 0,5—0,8 м, глыб. 0,2 м, запоўненых вуголлем, камянямі, керамічнымі чарапкамі, 3 гасп. і 1 падоўжана-авальная, мабыць, магільная яма. Знойдзены каля 8,5 тыс. расшчэпленых крамянёў і каля 1 тыс. фрагментаў керамікі, разнастайныя сякучыя прылады (у т. л. 5 авальных з двухбаковай аббіўкай і 6 трапецападобных сякер, 6 цёслаў з жалабатым лязом, 10 долатападобных прылад з лускаватай апрацоўкай канцоў), разцы (5 сярэдзінных, 2 бакавыя з косай рэтушшу, 2 камбінаваныя і 4 на рагу зламанай пласціны), скрабкі (17 канцавых на адшчэпах і пласцінах і 1 круглаваты на першасным адшчэпе). Акрамя таго, 58 адшчэпаў і пласцін апрацаваны па краях нерэгулярнай рэтушшу, 43 адшчэпы маюць па краях рэтушаваныя выемкі. Знойдзена 320 нуклеусаў і іх загатовак, сярод якіх 49 прызматычных 1- і 2-пляцовачных, 13 тарцовых, 10 ладдзяпадобных, 8 пірамідальных, 10 крамянёвых адбойнікаў са спец. апрацаванай ручкай. Крамянёвы інвентар датуецца, пэўна, часам існавання крэменездабыўных шахтаў 3100—1240 г. да н. э. Сустракаецца гліняны ляпны посуд з раслліннымі дамешкамі і жарствой у цесце, вонкавая паверхня якога старанна загладжана або ангабавана. Захаваліся арнаментаваныя венчыкі посуду нёманскай культуры эпохі неаліту — пачатку бронзы. Ляпны посуд ранняга жал. веку выраблены з гліны з дамешкай жарствы. Знойдзены кавалак венчыка рабрыстага гаршка са штрыхаванай паверхняй, кавалак сценкі чорнаглянцаванага посуду і кераміка з расчосамі на вонкавай паверхні. З улікам знойдзенай тут раней бронзавай фібулы з трохвугольным шчыткам гэты посуд можна датаваць 2-й пал. 1 ст. н. э.— пач. 2 ст. н. э. і аднесці да позняй зарубінецкай культуры. Выяўлены фрагменты ганчарнага посуду Стараж. Русі і позняга сярэдневечча.
*В. Я. Кудрашоў, А. М. Мядзведзеў.*

С т а я н к а-5 эпохі неаліту і бронзавага веку. На выступе 2-й надпоймавай тэрасы правага берага р. Рось, на 3 ад мелавой лінзы



Крамянёвы інвентар стаянкі-5 **Краснасельскага археалагічнага комплексу.**



Фібулы (1), шкляная пацерка (2) і штрыхаваная пасудзіна (3) з селішча **Краснасельскага археалагічнага комплексу.**

«Рэйста». Выявілі і даследуюць Ліпніцкая і Кудрашоў. Плошча каля 1 га, ускрыта каля 700 $м^2$. У зах. і ў паўд. частках раскопу выяўлена па 20 вогнішчаў і ям рознага прызначэння, да якіх прымеркавана большасць крамянёвых знаходак. Ступень насычанасці культурнага пласта ад 20 да 1440 адзінак на 1 $м^2$. У 9 скопішчах сканцэнтравана да 40 % крэменю. Тут праведзены вельмі рэдкія ў археал. практыцы рэмантажныя работы: да аднапляцовачнага нуклеуса ўдалося падабраць 5 адшчэпаў, якія наклаліся на яго; паслядоўна склеены 3, 10 і двойчы па 2 адшчэпы.

За 4 палявыя сезоны на стаянцы выяўлена больш чым 20 200 знаходак, у т. л. 434 ядрышчы і 423 прылады працы. Сярод ядрышч пераважаюць аднапляцовачныя. Сярод крамянёвых прылад працы маюцца наканечнікі (тронкавыя сіметрычныя, тронкі з бруска з абодвух бакоў апрацаваны кру-



Да арт. **Краснасельскі археалагічны комплекс.** Разрэз крэменездабыўной шахты на сценцы крэйдавага кар'ера.

той рэтушшу, асіметрычныя тронкавыя з аднабаковай рэтушшу, трохвугольныя з плоскай двухбаковай рэтушшу), пласціны і мікрапласціны з прытупленымі і скошанымі рэтушшу краямі, вастрыі з рэтушшу са спінкі, праколкі з апрацаваным працілеглай рэтушшу джалам, трапецыі сіметрычныя і асіметрычныя з паўкрутой рэтушшу бакавых краёў і асноў пласцінкі з усечанымі краямі яніславіцкага тыпу, разцы (папярочна-косарэтушаваныя, сярэдзінныя, трансверсальныя, на зломе), скрабкі (канцавыя адзінарныя і двайныя з рэтушшу бакавых краёў, акруглыя і паўакруглыя, пазногцепадобныя), адна- і двухлязовыя скрэблы, абушковыя часткі сякучых прылад, паўфабрыкаты, адшчэпы і пласціны з выемкамі і проста з рэтушшу, адбойнікі і рэтушоры апрацаваныя і неапрацаваныя.
*В. Я. Кудрашоў, В. Л. Ліпніцкая.*

С т а я н к а-6 арэнсбургскай культуры фінальнага палеаліту. За 500 м ад пасёлка, на правым беразе р. Рось, ва ўрочышчы Сосны. Выявіў мясц. краязнавец М. У. Вераціла, даследавалі ў 1982 Гутоўскі (24 $м^2$),

у 1986 Чарняўскі, Мядзведзеў (8 м²), Кудрашоў, Ліпніцкая (48 м²). Культурны пласт 0,1 м.

Выяўлены рэшткі паўзямлянкі і трох слупавых ям 9—12 ст., 3 рабочыя месцы майстра (кожнае пл. 1—2 м²), дзе былі адпаведна 1167, 129 і 87 прадметаў. Знойдзена 4886 расшчэпленых крамянёў і 58 фрагментаў посуду. Першасная апрацоўка крэменю прадстаўлена 1256 сколамі, 1220 адшчэпамі, 272 пласцінамі, 169 нуклеусамі (з іх 117 прызматычных 1- і 2-пляцовачных, 38 тарцовых, 8 пірамідальных і 6 поліэдрычных), 14 скрабкамі (простыя канцавыя на адшчэпах і пласцінах з папярочным і скошаным лязом; пакарочаныя паўкруглыя), разцамі (1 двайны з папярочнай рэтушшу, 2 сярэдзінныя і 4 разцы на зломе). 4 тронкавыя наканечнікі стрэл на пласцінах мясц. крэменю (арэнсбургскага тыпу са скошаным вастрыём, грэнскага тыпу з бакавой выемкай і зарэтушаваным процілеглым бакавым краем, з рэтушаваным пяром, сіметрычны) даюць падставы датаваць помнік фінальным палеалітам і аднесці яго да арэнсбургскай культуры, распаўсюджанай у Еўропе 10—12 тыс. гадоў таму назад. Знойдзены 5 фрагментаў ляпнога посуду бронзавага і ранняга жал. вякоў, 53 — ганчарнага посуду 9—12 і 18 ст.

*В. Я. Кудрашоў, В. Л. Ліпніцкая.*

С т а я н к а-7 эпохі неаліту і бронзавага веку. На астанцы 2-й надпоймавай тэрасы р. Рось, на У ад чыг. лініі Мачуліна — Рось, за 150 м на Пн ад кіламетровага слупа 886. Памеры 220×105 м. Выявіў у 1986 Кудрашоў, да 1988 Ліпніцкая даследавала 544 м².

Знойдзена 3 скопішчы крамянёў. У адным з іх, якое з'яўлялася рабочым месцам майстра, было 625 крамянёвых артэфактаў. Рэмантажныя работы дазволілі са 144 кавалкаў сабраць каля 30 складанак, у т. л. 1 канкрэцыю, 2 нуклеусы і 32 адшчэпы. Выяўлены 12 ям розных памераў і запаўненняў, 9 вогнішчаў, адно з якіх выкладзена камянямі. Культурны пласт 0,8 м у зах. і паўд. частках раскопаў. Усяго знойдзена больш за 4,2 тыс. крамянёвых рэчаў, у т. л. 18 нуклеусаў, частка якіх прыстасавана пад скрабкі, рэтушор, цясла. Сярод прылад працы: наканечнікі (у т. л. тронкавы сіметрычны, лістападобны з апрацаваным рэтушшу пяром і асновай), мікрапласцінкі (з прытупленым рэтушшу краем), скрабкі канцавыя адзінарныя, з пукатым і прамым рабочым краем, а таксама круглаватыя разцы (папярочна-рэтушаваныя вуглавыя, нуклепадобныя, сярэдзінныя), скоблі на адшчэпах, разнастайныя скрэблы, вастрыё на мікрапласціны, загатоўкі і абломак шліфаванай свідраванай сякеры, сячэнні пласцін з рэтушшу па краях, нажы, пракруткі, праколкі, сколы, адшчэпы. Блізкае размяшчэнне ад крэмездабыўных шахтаў, наяўнасць рабочага месца майстра, шматлікіх крамянёвых адходаў дазваляюць аднесці паселішча-7 да стаянак-майстэрняў.

*В. Л. Ліпніцкая, В. Я. Кудрашоў.*

С е л і ш ч а *штрыхаванай керамікі культуры* і *зарубінецкай культуры.* Займае паўн. частку стаянкі-5. Выявіў і даследаваў у 1988 Мядзведзеў.

У зах. частцы раскопу на пл. 68 м² знойдзены скопішчы (да 200 абломкаў на 1 м²) дробных абпаленых касцей, вуголля, фрагменты ляпной керамікі (гладкасценнай, штрыхаванай, з расчосамі, шурпатай і глянцаванай), шкляная пацерка з хваліста-папярочным лінейным арнаментам, 2 фібулы зарубінецкага тыпу з трохвугольным шчытком, абломкі дыскападобных патэльняў, выробленых з гліны з дамешкамі саломы і пацярухі. Селішча датуецца 1 ст. н. э. Трапляюцца чарапкі ганчарнай керамікі культуры тыпу Лукі-Райкавецкай 9—10 ст.

*А. М. Мядзведзеў.*

К р э м е н е з д а б ы ў н ы я ш а х т ы эпохі неаліту і бронзавага веку. На ПдЗ ад пасёлка на беразе р. Рось. Выявіў у 1920 Рыдзеўскі,



Да арт. **Краснасельскі археалагічны комплекс.** Выява старажытнага шахцёра. Рэканструкцыя І. У. Чаквіна па чэрапе з пахавання культуры штрыхаванай керамікі (2-е тысячагоддзе да н. э.) у крэменездабыўной шахце. Скульптар Л. П. Яшэнка.

даследавалі ў 1920—24 Шміт, у 1961—67 Гурына, у 1962 Чарняўскі. На крэйдавых адорвенях на З і ПдЗ ад пасёлка выяўлены сотні шахтавых выпрацовак, якія цяпер знішчаны кар'ерамі. На ўсх. канцы лінзы-адорвеня № 3 захаваліся рэшткі такіх шахтаў, больш за 80 з іх пакуль не даследаваны.

У канцы неаліту мясц. насельніцтва ад паверхневага збору крамянёвай сыравіны перайшло да яго здабычы ў крэйдавай тоўшчы траншэйным, а потым і шахтавым спосабамі. Шахты ўяўлялі сабой калодзежападобныя паглыбленні дыям. да 1,5 м, глыб. 2,5—3 м. У месцах праходкі крэменяносных пластоў ад вертыкальнага ствала адыходзілі падбоі, часам суседнія выпрацоўкі злучаліся штрэкамі. На некаторых крэйдавых участках, дзе пласты крэмеию былі моцна нахіленыя або арыентаваныя вертыкальна, выпрацоўкі маюць шчылінападобную форму. Здабыча крамянёвай сыравіны вялася разнастайнымі гарняцкімі інструментамі, зробленымі пераважна з рога аленя — кайламі, капалкамі, малаткамі-даўбешкамі. Некаторыя інструменты з дапамогай свідраваных адтулін насаджваліся на дзяржанні. Сценкі выпрацовак захавалі шматлікія сляды шахцёрскай працы. Са здабытай крамянёвай сыравіны выраблялі сякеры, што распаўсюджваліся ў Панямонні і прызначаліся пераважна для высечкі лесу ва ўмовах ляднага земляробства. У адной шахце знойдзена пахаванне шнуравой керамікі культуры. У пахаванні выяўлены пласкадонны гаршчок з аздобай тыпу наразной ялінкі і тоўстая іголка для сшывання скур. Помнік датуецца 3—1-м тысячагоддзямі да н. э.

*М. М. Чарняўскі.*

К р э м е н е а п р а ц о ў ч а я м а й с т э р н я бронзавага веку. За 1 км на Пд ад пасёлка, на левым беразе р. Рось, ва ўрочышчы Тры Сасны. Выявіла ў 1958 Гурына, даследавала ў 1978 і 1983 Ліпніцкая. 2 раскопы плошчай 84 і 30 м² закладзены на З ад аўтадарогі Ваўкавыск — Краснасельскі. Культурны пласт не мае выразных граніц. Знаходкі выяўлены на глыб. 0,1—0,5 м.

У першым раскопе знойдзена 2499 крамянёў (з іх 2033 адшчэпы), 130 пласцін, 16 нуклеусаў (у т. л. 4 двухпляцовачныя, 2 аднапляцовачныя і інш.), у другім — 5 нуклеусаў, 22 сколы, 387 адшчэпаў, 798 лусак, 69 пласцін. Сярод іншых знаходак масіўная праколка, разец, адбойнік, 8 фрагментаў керамікі і 84 кавалкі абгарэлага крэменю. Блізкае размяшчэнне помніка ад крэменездабыўных шахтаў дазваляе аднесці яго да майстэрняў па апрацоўцы крэменю. Помнік датуецца 3—2-м тысячагоддзямі да н. э.

*В. Л. Ліпніцкая.*

М о г і л ь н і к шарападобных амфар культуры. За 1,5 км на ПдЗ ад пасёлка, на зах. краі крэйдавай лінзы № 3. Выявіў у 1971 Вераціла, даследаваў Чарняўскі. Раскапаны 4 прамавугольныя магільныя ямы, у якіх знойдзены рэшткі пахавання чалавека і свойскіх жывёл, гліняныя гаршкі, амфара, арнаментаваная адбіткамі шнура, касцяныя наканечнікі стрэл, бурштын, апрацаваныя камяні.

*Літ.:* 284, 1288, 1291.

*М. М. Чарняўскі.*

**КРАСНА́ЎКА,** група археал. помнікаў каля в. Краснаўка Светлагорскага р-на.

П а с е л і ш ч а-1 днепра-дзяснінскай культуры. За 250 м на ПдУ ад вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Бярэзіна, на 5 м вышэй узроўню вады. Выявіў у 1974 і даследаваў у 1977 У. П. Ксяндзоў. Культурны пласт разбураны ветравой эрозіяй і другасным засяленнем у раннім жал. веку. У раскопе пл. 90 м² на глыб. 0,4 м у пласце дробназярністага пяску выяўлена 312 вырабаў з крэменю. Сыравінай для іх служыў «сожскі» крэйдавы крэмень шэрага колеру.

Сярод знаходак наканечнік стралы, скрабкі з пласцін і адшчэпаў, праколка

скоблі, долатападобныя прылады, нуклеусы, адшчэпы, пласціны. Датуецца 6—5-м тысячагоддзямі да н. э.

Паселішча-2 *яніславіцкай культуры.* За 100 м на ПнЗ ад вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Бярэзіна, на 3—4 м вышэй узроўню вады. Выявіў і даследаваў у 1981 У. П. Ксяндзоў. Культурны пласт разбураны ветравой эрозіяй і другасным засяленнем у бронзавым веку.

У раскопе пл. 120 м² на глыб. 0,1—0,4 м у дробназярністым пяску выяўлены прылады працы, выраблены з крэйдавага «сожскага» крэменю, авальныя скрабкі з адшчэпаў, бакавыя і сярэдзінныя разцы, вастрыі, скоблі, укладышы з пласцін, рэтушоры, рэтушаваныя пласціны і адшчэпы, нуклеусы. Датуецца 6—5-м тысячагоддзямі да н. э.

Курган. За 1,5 км на ПдЗ ад вёскі. Выш. 1,2 м, дыям. 10 м. Абследавала ў 1983 Н. М. Дубіцкая.

*Літ.:* 619, 620, 624. *У. П. Ксяндзоў.*

**КРА́СНЫ БОР,** археал. помнікі каля в. Красны Бор Лагойскага р-на.

Селішча позняга этапу *зарубінецкай культуры* і ранняга феадалізму. У межах вёскі, часткова занята пабудовамі, разворваецца. Адкрыў у 1962 і даследаваў у 1963 Л. Д. Побаль. Пл. каля 2 га, даследавана 40 м² у цэнтр. частцы помніка. Культурны пласт 0,4—0,5 м. Знойдзены фрагменты гладкасценнага посуду, у т. л. з расчосамі, сопла ад горна, ганчарны посуд перыяду Стараж. Русі. З селішчам звязваюць знойдзеныя ў сярэдзіне 19 ст. 5 сярэбраных паясоў з разнастайнымі эмалямі.

Курганны могільнік. За некалькі соцень метраў на ПнЗ ад вёскі, ва ўрочышчы Курганне. Да 1962 захавалася 26 насыпаў. Даследаваў адзін насып у 1962 Побаль. Пахавальны абрад — трупапалажэнне галавой на У без рэчаў.

*Літ.:* 895, 1478. *Л. Д. Побаль.*



Да арт. **Краснасельскі археалагічны комплекс.** Рытуальнае пахаванне жывёл на могільніку культуры шарападобных амфар.




Крамянёвыя наканечнік стралы (1), разец (2), скрабок (3), долатападобная прылада (4), нуклеус (5) з паселішча-1 **Краснаўка.**

**КРАЎЦЭВІЧ** Аляксандр Канстанцінавіч (н. 13.9.1958, в. Лупачы Мастоўскага р-на), беларускі археолаг. Канд. гіст. навук (1988). Скончыў БДУ (1981). З 1985 супрацоўнік Ін-та гісторыі АН БССР, з 1987 нач. сектара археал. даследаванняў Бел. рэстаўрацыйна-праектнага ін-та, з 1990 вядучы археолаг архітэктурна-рэстаўрацыйнага кааператыва пры Мін-ве культуры БССР. Асн. тэматыка даследаванняў — матэрыяльная культура гарадоў, мястэчак і замкаў Бел. Панямоння 14—17 ст. (Ашмяны, Гродна, Ліда, Любань, Мір, Навагрудак і інш.).

*Тв.:* Майстар — наш продак. Мн., 1990; Гарады і замкі Беларускага Панямоння XIV—XVIII стст. Мн., 1991.



А. К. **Краўцэвіч.**

**КРАШЭ́ЎСКІ** Юзаф Ігнацы (псеўданімы Б. Балеславіта, Др. Амега, К. Пастарнак і інш.; 28.7.1812, Варшава — 19.3.1887), польскі пісьменнік, гісторык, мастацтвазнавец, грамадскі дзеяч. Акадэмік Акадэміі ведаў у Кракаве (1872), чл. Віленскай археал. камісіі (1856), ганаровы чл. Адэскага т-ва гісторыі і старажытнасцей. У дзяцінстве жыў у в. Доўгае каля Пружан, з 1834 у в. Доўгае на Валыні. Вучыўся ў Свіслацкай гімназіі, Віленскім ун-це. У 1830—32 у турме за ўдзел у антыцарскай змове. У 1841—51 рэдагаваў віленскі часопіс «Athenaeum» («Атэнэум»), у якім шмат месца адводзіў пытанням археалогіі. З 1860 у Варшаве, рэдактар газ. «Gazeta Polska» («Польская газета»). Як празаік дэбютаваў у 1831. Аўтар 223 раманаў і аповесцей, у т. л. паэтычнай трылогіі з гісторыі Літвы «Анафеляс» (1840—45). Стварыў у польскай літаратуры новы тып рэалістычнага рамана. Мінуламу Польшчы, Беларусі, Літвы і Украіны прысвяціў раманы «Апошнія з слуцкіх князёў» (1841), «Жыгімонтаўскія часы» (1846), «Залатыя яблык» (1853), «Графіня Косель» (1873), «Кароль у Нясвіжы. 1784» (1885) і інш. Падарожжы па Беларусі апісаў у нарысах «Пінск і Піншчына» (1837—38), «Успаміны Валыні, Палесся і Літвы» (1840), «Малюнкі з жыцця і падарожжаў» (1841—42), «Адзенне сялян і мяшчан з ваколіц Брэста, Кобрына і Пружан» (1859—60). Аўтар навук. прац «Старажытная Літва. Яе гісто-

рыя, законы, мова, вера, звычаі, песні...» (1847—50), «Барысаў» (1848). У працы «Мастацтва ў славян, асабліва ў Польшчы і дахрысціянскай Літве» (1860) выклаў свае канцэпцыі па праблемах археалогіі. Выказаў меркаванне, што славяне пад націскам кельтаў прыйшлі з захаду. Адносна паўн.-ўсх. славян прытрымліваўся нарманскай тэорыі. Кіруючыся прынцыпамі дацкага археолага К. Томсена, выкарыстоўваючы матэрыялы знаходак мясц. і замежных даследчыкаў, фактычна пацвердзіў *трох эпох тэорыю* Томсена. Выказаў меркаванне, што паміж трыма гал. эпохамі (каменя, бронзы і жалеза) няма выразных граніц, а захоўваюцца нейкі час пераходныя стадыі. Планаваў стварыць карту слав. старажытнасцей і археал. слоўнік. На бел. археал. матэрыялах вывучаў стараж. мастацтва. Сачыў за даследаваннямі і публікацыямі А. *Кіркора, Я. Тышкевіча,* К. *Тышкевіча,* К. *Гаворскага* і інш. Удзельнічаў у археал. кангрэсе ў Балоньі (1871), міжнар. з'ездзе археолагаў у Стакгольме (1874).

*Тв.:* Собр. соч. Кн. 1—52. Пб., 1915; Повести: Пер. с пол. М., 1956; Старое предание. М., 1956.

*Літ.:* 513. *Г. А. Каханоўскі.*

**КРАЯЗНАЎСТВА,** вывучэнне пэўнай тэрыторыі, раёна, горада, вёскі ці іншай рэгіянальнай адзінкі пераважна мясц. аматарамі. К. бывае комплекснае, калі вывучаюцца ўсе з'явы ў іх узаемасувязі, і галіновае — гістарычнае, прыродазнаўчае, ахеалагічнае, этнаграфічнае, геаграфічнае, літаратуразнаўчае, мастацтвазнаўчае і інш. Развіццё К. звязана з аховай помнікаў археалогіі, гісторыі, культуры, прыроды. Асн. метады К.— збіранне на месцах знаходжання стараж. паселішчаў, гарадзішчаў, замчышчаў, могільнікаў пад'ёмных матэрыялаў, рэчавых помнікаў і іх апісанняў, выяўленне дакументаў. Мае вял. значэнне ў грамадска-выхаваўчым, культурнаасветніцкім і патрыятычным выхаванні. Функцыі навукова-метадычных цэнтраў К. выконваюць музеі адпаведных профіляў, а таксама адпаведныя ін-ты АН Беларусі, у т. л. і аддзелы археалогіі Ін-та гісторыі.

Пачатак К. адносіцца да сярэднявечча. Духоўную і матэрыяльную культуру асобных мясцін Беларусі вывучалі Я. Ласіцкі, С. Рысінскі, В. В. Каяловіч (апошні шмат падарожнічаў па Беларусі, у Слоніме закончыў працу па складанні гербоўніка бел. і польскай шляхты, таксама вывучаў геральдыку і нумізматыку). У пач. 18 ст. гродзенскімі старажытнасцямі, у т. л. *Гродзенскай Барысаглебскай царквой,* займаўся І. Кульчынскі, які першы пачаў даследаваць будову сцен храма і параўноўваць іх з полацкімі храмамі. У 2-й пал. 18 ст. краязнаўцы зацікавіліся курганамі ў маёнтку Мосар на Віцебшчыне і пачалі іх раскопваць. А. Меер падрыхтаваў «Апісанне Крычаўскага графства 1786 года» (апублікавана 1901). Бел. старажытнасцямі ў 18 ст. цікавіліся М. Азерацкоўскі, А. Лунін, І. І. Ляпёхін, А. С. Нарушэвіч, Я. Патоцкі, В. М. Севяргін і інш. У пач. 19 ст. К. Халдзеўскі падрыхтаваў у Полацку манаграфію «Славянская археалогія», у якой значнае месца адведзена помнікам старажытнасці Полаччыны. Я. Касакоўскі паведамляў пра адкрыццё кургаіннага пахавання каля Навагрудка. Помнікі археалогіі Падзвіння даследавалі М. І. Борх, А. А. Плятар, у іншых мясцінах Беларусі — І. П. Барычэўскі (Тарнава-Барычэўскі), А. Брант, І. Гарыжскі, А. Глябовіч, Г. Э. Гродэк і інш. На пашырэнне К. пэўны ўплыў зрабілі *Віленская археалагічная камісія, Віленскі музей старажытнасцей,* Віленскі ун-т, *Віцебскае аддзяленне Маскоўскага археалагічнага інстытута, Віцебская вучоная архіўная камісія,* Паўн.-Зах. аддзел Рус. геаграфічнага т-ва, Т-ва вывучэння Магілёўскай губерні, царкоўнаархеал. к-ты, музеі, у т. л. прыватнаўласніцкія. Краязнаўча-археал. матэрыялы друкаваліся ў газетах *«Витебские губернские ведомости», «Гродненские губернские ведомости», «Минские губернские ведомости», «Могилевские губернские ведомости»* і часопісах *«Епархиальные ведомости»,* што дало падставу некаторым даследчыкам гаварыць пра «царкоўна-гістарычную археалогію» (А. К. Снітка, І. Я. Спрогіс), а таксама ў іншых газетах, Памятных кніжках губерняў, календарах, зборніках дакументаў і матэрыялаў «Віцебская даўніна», *«Мінская даўніна»,* «Магілёўская даўніна», «Полацка-Віцебская даўніна», у перыядычных выданнях і зборніках, што выходзілі ў Пецярбургу, Маскве, Вільні, Кіеве, Варшаве, Кракаве і інш. У 19 ст. археалогія вылучылася з К. ў самастойную галіну ведаў. Па традыцыі асобным рэгіёнам Беларусі прысвяцілі свае працы З. Я. Даленга-Хадакоўскі, Р. С. Зянькевіч, Т. Нарбут, К. П. Тышкевіч, Я. П. Тышкевіч. Пра старажытнасці Падзвіння пісалі М. Ф. Кусцінскі, Р. А. Падбярэзскі, А. Ф. Рыпінскі, А. П. Сапуноў, А. М. Семянтоўскі, пра Палессе — П. Контрым, Ю. І. Крашэўскі, П. М. Шпілеўскі, пра Панямонне і Віленшчыну — М. І. Балінскі, Л. А. Кандратовіч (У. Сыракомля), А. Г. К. Кіркор, Ф. В. Пакроўскі, В. А. Шукевіч, І. Ярашэвіч, пра Міншчыну — А. К. Ельскі, У. З. Завітневіч, Я. Завіша, Т. Саподзька, І. А. Сербаў, А. П. Смародскі, Г. Х. Татур, пра Падняпроўе — М. В. Без-Карніловіч, А. С. Дамбавецкі, С. Куторга, М. В. Фурсаў, С. Цэрха, С. Ю. Чалоўскі і інш. Уплыў на археал. К. мелі Я. Ф. Арлоўскі, А. Я. Багдановіч, Э. А. Вольтэр, М. А. Гаўсман, І. І. Далгоў, Дз. І Даўгяла, М. В. Доўнар-Запольскі, І. І. Луцкевіч, М. Я. Нікіфароўскі, П. С. Рыкаў, Дз. Я. Самакасаў, І. А. Сербаў, Снітка, А. А. Спіцын, У. К. Стукаліч, Г. І. Тэадаровіч, В. П. Федаровіч, М. Федароўскі, І. Храпавіцкі, М. А. Янчук. У пач. 20 ст. матэрыялы па К. друкаваліся ў бел. газеце «Наша ніва», часопісах, альманахах.

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі бел. К. значна пашырыла сферы дзейнасці. У 1917 у Слуцку створана культурнаасветнае т-ва «Папараць-кветка» з філіяламі ў в. Старыца («Зарніца») і Ліпнікі («Зорка»), выдавала час. «Наша каляіна» (1920, № 1, 2). Утвораны ў 1917 краязнаўчы гурток у в. Смалярск Ігуменскага пав. ставіў за мэту прапагандаваць ідэі К., ахоўваць помнікі, збіраць фальклорныя і этнаграфічныя матэрыялы. У 1921 аднавілі дзейнасць па К. Мінскае т-ва гісторыі старажытнасцей (вяло раскопкі курганоў у Заслаўі) і Віцебскае аддзяленне Маскоўскага археал. ін-та (на 3 факультэтах вучылася 420 студэнтаў). Але ў 1922 яно было зачынена, маёмасць па-варварску знішчалася. Былы яго дырэктар Б. Р. Брэжга пісаў: «Маёмасць скасаваных храмаў прадаецца, курганы раскопваюцца без дазволу...». Матэрыялы б. «Царкоўнаархеалагічнага дрэўлесховішча», сабраныя А. П. Сапуновым і Е. Р. Раманавым, распрадаваліся, пакідалася толькі тое, што было выгадна новым уладам. У 1921 пры Інбелкульце ўтворана камісія па рэгістрацыі краязнаўчых арганізацый, якая фактычна стала асновай Цэнтр. бюро краязнаўства (ЦБК). У 1924 зарэгістравана 19 арганізацый у Магілёве, Барысаве, Оршы і інш. У лістападзе 1924 адбылася 1-я Усебел. краязнаўчая канферэнцыя. якая арганізацыйна аформіла ЦБК і прыняла рашэнне пра выданне часопіса «Наш край», першы нумар яго выйшаў у кастрычніку 1925. У апублікаванай праграме ў ліку найважнейшых задач было вывучэнне гісторыі краю, у т. л. археалагічнае. У 1925 у БССР каля 5 тыс. краязнаўцаў, актыўна працавалі Магілёўскае і Віцебскае бюро краязнаўства. Пры ЦБК створаны археал. камісіі, якія кіравалі раскопкамі, складалі археал. карту Беларусі, ахоўвалі помнікі археалогіі. 17—18 студзеня 1926 адбыўся 1-ы з'езд даследчыкаў бел. археалогіі і археаграфіі, у якім удзельнічала 57 чал. У 1926 і 1927 адбыліся ўсебеларускія з'езды краязнаўцаў. 1-ы з'езд прыняў пастанову «Аб краязнаўчай рабоце ў галіне гісторыі і археалогіі і аб ахове помнікаў старажытнасці». У 1927 дзейнічала 240 краязнаўчых арганізацый (9637 чл.), працавала 18 музеяў. Пад кіраўніцтвам супрацоўнікаў Інбелкульта праводзіліся археал. раскопкі пад Оршай, Магілёвам, Мінскам, абследавана больш за 30 стараж. стаянак на Дняпры і Сажы, 53 гарадзішчы і інш., выдаваліся неперыядычныя краязнаўчыя зборнікі, запіскі і інш. У гэты час да краязнаўчай дзейнасці далучыліся Д. М. Васілеўскі, Ц. Гартны, М. І. Гарэцкі, В. Д. Дружчыц, М. І. Каспяровіч, Я. Колас, К. Крапіва, Я. Купала, В. А. Самцэвіч, С. В. Скан-

дракоў, А. А. Шлюбскі, Б. І. Эпімах-Шыпіла і інш. У 1929 пачаліся інспіравацца розныя палітычныя працэсы. 3-я Усебел. краязнаўчая канферэнцыя, якая адбылася ў 1930, фактычна згарнула краязнаўчую дзейнасць. У 1932 прынята пастанова СНК БССР «Аб мерапрыемствах па разгортванню краязнаўчага руху», у якой гаварылася аб падпарадкаванні ўсёй краязнаўчай работы «планам сацыялістычнага будаўніцтва». У 1930 быў закрыты часопіс «Наш край», замест яго ў 1930—33 выдаваўся часопіс «Савецкая краіна», які фактычна разграміў краязнаўчы рух на Беларусі. У навук. установах К. насіла валюнтарысцкі характар.

У Зах. Беларусі, якая ў 1921—39 знаходзілася пад уладай Польшчы, цэнтрамі К. сталі *Беларускі музей* імя І. Луцкевіча і Бел. навук. т-ва, створанае ў 1921 у Вільні. Пэўную ролю ў развіцці К. адыграла Т-ва бел. школы (1921—37). Клопат пра развіццё бел. К. браді на сябе і бел. гімназіі, а таксама настаўнікі бел. школ, інтэлігенцыя, якія праз публікацыі ў перыядычным друку, календары, брашуры, кнігі, экскурсіі прапагандавалі веды пра родны край. Важкі ўклад у развіццё бел. К. унеслі дзеячы бел. культуры Л. Вітан-Дубяйкоўскі, Л. Войцік, Я. Гаўрылік, Я. Драздовіч, М. Ільяшэвіч, І. Краскоўскі, В. Ластоўскі, А. Луцкевіч, А. Неканда-Трэпка, М. Пецюкевіч, У. Самойла, П. Сергіевіч, І. Стабровскі, А. Станкевіч і інш. Археал. даследаваннямі займаліся М. Бранштэйн, У. Галубовіч, Г. Пех, Г. Цэгак-Галубовіч, Н. Чарноцкі і інш. Дзейнічалі музеі ў Гродне, Слоніме, Лідзе, Пінску і некаторыя прыватнаўласніцкія музеі. Падтрымліваліся сувязі з Навук. т-вам імя Ф. Скарыны ў Празе, Бел. нац. к-там у Чыкага, Бел. навукова-краязнаўчым т-вам у Рызе (1920—40). Афіцыйныя польскія ўлады праводзілі дэструкцыйную, паланізатарскую палітыку ў краі. Праз сваю прэсу, ксяндзоў-месіянераў і масавую літаратуру яны ажыццяўлялі ідэю Вял. Польшчы.

Пасля Вял. Айчыннай вайны назіралася некаторае ажыўленне К., што праявілася пры вывучэнні гераізму сав. людзей на франтах вайны і ў тыле ворага. Пра помнікі старажытнасці змяшчаліся матэрыялы толькі ў часопісе «Беларусь». Аднак у хуткім часе зноў пачаўся спад К., які працягваўся да канца 1950-х г. Толькі дзякуючы С. Х. Александровічу і некаторым інш. літаратуразнаўцам зрэдку паяўляліся артыкулы пра літаратурнае К., вельмі мала публікавалася матэрыялаў пра археал. К., найчасцей пра адкрытыя помнікі. На рубяжы 1950—1960-х г. пачалі адкрывацца краязнаўчыя музеі, але ў 2-й пал. 1960-х г. шмат якія з іх пераўтвораны ў музеі нар. славы, дзе выключаліся зборы помнікаў старажытнасцей. Выпадковыя археал. знаходкі траплялі ў некаторыя школьныя музеі (напр., у сярэдніх школах Багушэвіцкай Бярэзінскага р-на, Мядзельскай, Лоскай Валожынскага, Гудзевіцкай Мастоўскага, Гальшанскай Ашмянскага, Валеўскай Навагрудскага р-наў, Клецкай, Сноўскай Нясвіжскага, Навасвержанскай Стаўбцоўскага р-наў і інш.). К. набыло выродлівыя формы, што праявілася ў прыярытэтным становішчы ваенна-патрыятычнай тэматыкі, у прапагандзе сумніцельных поспехаў у развіцці нар. гаспадаркі і інш. Адбывалася масавае знішчэнне помнікаў археалогіі, хоць у 1966 створана *Беларускае добраахвотнае таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры,* якое ў 1970—89 выдавала бюлетэнь *«Помнікі гісторыі і культуры Беларусі»*, дзе значнае месца адводзілася матэрыялам па археалогіі Беларусі. У 1987 пры Беларускім аддзяленні Сав. фонду культуры арганізавана і разгарнула дзейнасць Краязнаўчая камісія, якая на з'ездзе краязнаўцаў Беларусі 27.12. 1989 пераўтворана ў *Беларускае краязнаўчае таварыства.* Праблемы К. асвятляюцца ў часопісах «Спадчына», «Беларусь» і інш. перыядычных выданнях. У выдавецтве «Полымя» існуе рэдакцыя краязнаўства, якая выпускае серыю «Па родным краі», кнігі па заказу Бел. добраахвотнага т-ва аховы помнікаў гісторыі і культуры, у т. л. па археалогіі, іншыя краязнаўчыя выданні. У выдавецтве «Беларусь» выпушчана серыя кніг пра гарады Беларусі, дзе змешчаны матэрыялы археал. даследаванняў. Значны ўклад у развіццё К. ў пасляваенны перыяд зрабілі М. І. Алексяюк, А. Г. Зайка, В. Кісель, М. П. Клімец, В. Ляшук, Б. В. Міралюбаў (Брэсцкая вобл.), У. А. Арлоў, В. А. Ермалёнак, А. М. Падліпскі, М. С. Рыўкін, У. Шушкевіч, К. С. Шыдлоўскі (Віцебская вобл.), А. М. Белакоз, М. У. Вераціла, А. П. Госцеў, М. М. Казлоўскі, А. Г. Майсяёнак, А. М. Пяткевіч, В. Р. Супрун, У. А. Урабановіч (Гродзенская вобл.), У. У. Багамольнікаў, А. Вішнеўскі, А. Літвінаў (Гомельская вобл.), У. Р. Ламінскі, А. А. Марзалюк, М. А. Ткачоў, А. А. Трусаў, П. Дз. Урублеўскі, М. Ф. Мельнікаў, Е. І. Філіповіч (Магілёўская вобл.), П. І. Бітэль, Л. І. Бойка, А. І. Каралёў, К. А. Каратай, Я. М. Касцюк, Г. А. Каханоўскі, В. А. Ляшковіч, Б. У. Сасноўскі, М. М. Чарняўскі, К. Я. Шышыгіна (Мінская вобл.), С. А. Акуліч, А. П. Грыцкевіч, У. С. Караткевіч, А. М. Карлюкевіч, З. В. Шыбека (Мінск), Л. В. Аляксееў, А. К. Каўка, У. П. Сазановіч, М. М. Улашчык (Масква), В. П. Грыцкевіч, М. В. Нікалаеў (Ленінград), А. Баршчэўскі, П. Бойка, М. Гайдук, К. Ляшчынскі, В. Рудчык, Ю. Туронак, С. Яновіч (Беласток, Польшча) і інш.

*Літ.*: 35, 44, 2156, 466, 490, 507, 513, 518, 711. *Г. А. Каханоўскі.*

**КРУГЛІЦА,** стаянка эпохі неаліту каля в. Кругліца Стаўбцоўскага р-на. За 1,5 км на ПдУ ад в. Кругліца, за 3 км на Пд ад в. Апечкі, на правабярэжнай надпоймавай тэрасе Нёмана, ва ўрочышчы Лысая Гара. Выявіў Л. Д. Побаль, даследаваў у 1962, 1964, 1965 М. М. Чарняўскі.

Знойдзены рэштткі агнішчаў, разнастайны крамянёвы і керамічны матэрыял ад ранняга неаліту да сярэднябронзавага часу (4-е — сярэдзіна 2-га тысячагоддзя да н. э.). Да ранняга неаліту адносяцца прылады працы, абломкі танкасценных гаршкоў, упрыгожаных накольчатым і грабеньчатым арнаментам. Большасць крамянёвых знаходак і абломкі вастрадонных гаршкоў адносяцца да сярэдняга неаліту, частка керамікі з заштрыхаванай паверхняй — да позняга неаліту. Знаходкі са стаянкі каля Лысай Гары паслужылі падставай для вылучэння сярэдняга (лысагорскага) этапу *нёманскай культуры.* На помніку выяўлены нешматлікія знаходкі *шнуравой керамікі культуры* (пач. 2-га тысячагоддзя да н. э.) і пахаванне сярэднябронзавага часу з рысамі *сосніцкай культуры,* дзе былі сляды крэмацыі і абломкі пласкадоннай пасудзіны з валікам, упрыгожанай ружанцавым арнаментам (сярэдзіна 2-га тысячагоддзя да н. э.).

*Літ.:* 1289. *М. М. Чарняўскі.*

**КРУ́МПЛЕВА,** стаянка ранняга мезаліту *Кунда культуры* каля в. Крумплева Полацкага р-на. За 2 км на ПдЗ ад вёскі, на надпоймавай тэрасе правага берага р. Зах. Дзвіна (выш. 6 м над узроўнем вады). Адкрыла і даследавала ў 1957 Н. М. Гурына, даследаваў у 1967 І. М. Ціханенкаў. Культурны пласт мезаліту парушаны другасным засяленнем у сярэднявеччы.

Знойдзены прылады працы з крэйдавага крэменю высокай якасці: постсвідэрскія тронкавыя наканечнікі стрэл свідэрскай культуры, канцавыя скрабкі з пласцін, мікраскрабкі, ланцэтападобныя вастрыі, праколкі, скоблі, пласцінкі з рэтушшу, долатападобныя вырабы, нуклеусы.

Датуецца 8—7-м тысячагоддзямі да н. э.

*Літ.:* 289. *У. П. Ксяндзоў.*

**КРУ́ЦЕЖ** (польск. krucierz), польская назва *крэйцара трайнога.*

**КРУЧО́К РЫБАЛО́ЎНЫ,** прылада, якая выкарыстоўваецца для аснасткі вуды, перамёта, жарліцы, дарожкі і інш. для розных прынад і насадак.

На Беларусі вядомы з часоў неаліту. Знойдзены пры раскопках паселішчаў *Камень* Пінскага (21 кручок), *Асавец* Бешанковіцкага р-наў. Напачатку выраблялі з тонкіх рагавых пласцін, або трубчастых касцей жывёл. Выш. такіх К. р. 37—82 мм, мелі бародку, лоб (часам адагнуты вонкі), лапатападобную ножку, часам з вушкам пад жылку. Падобныя кручкі вядомы таксама на Украіне, у Эстоніі, Швецыі, Швейцарыі. Бронзавыя і жал. кручкі на Беларусі з'явіліся ў час ранняга жал. веку. Вядомы з раскопак гарадзішчаў *Аўгустова* Лепельскага, *Загаваліна, Кастрыца, Кублічы* Ушацкага, *Мазурына* Міёрскага, *Аздзяцічы* Барысаўскага, *Палыкавічы* Магілёўскага р-наў і інш. Кручкі часоў Кіеўскай Русі вядомы з раскопак Слоніма, Гародні, Бярэсця,

Мінска, Полацка, Віцебска. Сустракаюцца бронзавыя і жал. кручкі розных памераў з кароткім і доўгім цаўём.
*Літ.:* 151, 326, 452, 1203.
*Л. У. Калядзінскі.*

**КРЫВАЛЬЦЭ́ВІЧ** Мікалай Мікалаевіч (н. 1.1.1958, в. Канстанцінаўка Любанскага р-на), бел. археолаг. Канд. гіст. навук (1991). Скончыў гіст. ф-т Мінскага пед. ін-та (1982), аспірантуру Ін-та гісторыі АН БССР (1987). З 1987 малодшы навуковы супрацоўнік гэтага ін-та. Вывучае археал. культуры эпохі бронзы, перыядызацыю і храналогію помнікаў бронзавага веку на тэр. Беларусі.
*Тв.:* Исследования в центральной части Белорусского Полесья // Археологические открытия 1985 года. М., 1987; Новые данные к вопросу культурной принадлежности памятников бронзового века в Припятском Полесье Белоруссии // Актуальные проблемы историко-археологических исследований: Тез. докл. VI Респ. конф. молодых археологов. Киев, 1987; Работы на левобережье Припяти // Археологические открытия 1986 года. М., 1988.

**КРЫ́ВІНА,** гл. *Галоўск.*

**КРЫВІ́ЧЫ,** аб'яднанне ўсх.-слав. плямён, якое жыло ў басейне верхняга Дняпра, Зах. Дзвіны, Волгі, на Пд Чудскага воз. Вядомы па археал. помніках і пісьмовых крыніцах. На думку адных вучоных, назва паходзіць ад слова «крэўныя» (блізкія па крыві), на думку іншых — ад імя легендарнага родапачынальніка Крыва або ад язычніцкага першасвяшчэнніка Крыва-Крывейтэ, ад узгоркаватай мясцовасці (крывізна). Працэс фарміравання К. адбываўся ў 2-й пал. 1 — пач. 2-га тысячагоддзя н. э. ў выніку асіміляцыі славянамі мясц. балцкіх і зах.-фінскіх плямён. У канцы 1-га тысячагоддзя племяннное аб'яднанне К. распалася на 3 групы — полацкую, смаленскую і пскоўскую (паводле назвы іх гал. гарадоў). Для полацкіх К., ці *палачан,* як яны названы ў летапісе, характэрна *доўгіх курганоў паўночнай Беларусі культура,* у якой захавалася шмат элементаў матэрыяльнай культуры *балтаў.* Смаленскія К. па культуры вельмі блізкія да полацкіх, таму ў этнагр. адносінах звычайна разглядаюцца як полацка-смаленская група плямён. На тэр. рассялення полацкіх К. вывучаліся гарадзішчы і селішчы ў Віцебску, Полацку, Заслаўі, Лукомлі, курганныя могільнікі каля в. *Баркі, Бельчыца, Бяльмонты, Вышадкі, Глівін, Глінішча, Дарахі, Ізбішча, Кублішчына, Лісна, Плусы,* Пуцілкавічы, *Сінчукі, Сосенка, Чарневічы,* Янкавічы і інш. На мяжы 10—11 ст. у К. паявіліся круглыя курганы з пахавальным абрадам трупапалажэння на гарызонце, пазней пашырылася трупапалажэнне ў ямах, зрэдку ў насыпах. Большасць нябожчыкаў арыентавана паводле слав. звычаю галавою на З, трапляюцца мужчынскія пахаванні з адваротнай арыенціроўкай (галавой на У) або мерыдыянальныя (Пн — Пд). Лічаць, што ўсх. арыенціроўка з'яўляецца перажыткам балцкага пахавальнага рытуалу, мерыдыянальная — фіна-угорскага. У арыенціроўцы нябожчыкаў назіраюцца сезонныя адхіленні (летам Пд — З — Пн — У, зімой Пн — З — Пд — У). У курганах трапляюцца багатыя пахаванні з мноствам рэчаў і бедныя з невял. колькасцю інвентару або зусім без яго, што сведчыць пра маёмасную няроўнасць. Сустра-



**Кручкі рыбалоўныя** са стаянкі Камень Пінскага р-на.




**Кручкі рыбалоўныя** 13 ст. (1—4), 17 ст. (5).



М. М. **Крывальцэвіч.**



Да арт. **Крывічы.** Выява крывіча. Рэканструкцыя І. У. Чаквіна па чэрапе з курганнага могільніка Кублішчына Міёрскага р-на. 11 ст. Скульптар Л. П. Яшэнка.



Да арт. **Крывічы.** Выява крывічанкі. Рэканструкцыя І. У. Чаквіна па чэрапе з курганнага могільніка Дроздава Талачынскага р-на. Пач. 11 ст. Скульптар Л. П. Яшэнка.

каюцца і драўляныя дамавіны, змацаваныя жал. цвікамі. У кожным могільніку ёсць *кенатафы.* Пры даследаванні кургапоў выяўлены прыкметы *трызны* і стравы. Для полацкіх (як і смаленскіх) К. характэрны пэўны тып упрыгожанняў — бранзалетападобныя драцяныя скроневыя кольцы дыям. 5—11 см з завязанымі канцамі і шкляныя залачоныя пацеркі. У жаночых пахаваннях знаходзяць шкляныя і сердалікавыя пацеркі, пярсцёнкі, бранзалеты, шыйныя грыўні. У якасці прывесак выкарыстоўваліся сярэбраныя манеты: дырхемы і іх імітацыі, дэнарыі, візантыйскія міліярысіі (*Багрынава,* Вядзец, Ізбішча, ***Навасёлкі, Славені,*** Парэчча, ***Слабодка, Шо*** і інш.). У мужчынскіх пахаваннях трапляюцца сякеры, нажы, крэсівы, спражкі, зрэдку наканечнікі коп'яў і стрэл. Гліняны посуд, драўляныя вёдры, сярпы ёсць у мужчынскіх і жаночых пахаваннях. У некаторых курганах знойдзены баявыя сякеры — чаканы. Курганныя могільнікі дружыннікаў выяўлены каля Полацка і Лукомля, асобныя пахаванні — каля Заслаўя. У курганах 11—12 ст. сустракаюцца язычніцкія амулеты з прасвідраваных іклаў ці зубоў жывёл і вельмі рэдка — металічныя крыжыкі, якія насілі як упрыгожанні ў складзе маніста. Пахавальны абрад і інвентар сведчаць, што язычніцкія вераванні ў сельскай мясцовасці захоўваліся да канца 12 ст. Асноўнай гасп. адзінкай К. у 2-й пал. 1-га тысячагоддзя н. э. паранейшаму заставалася вял. патрыярхальная сям'я, нягледзячы на працэс вылучэння малых сем'яў, які пачаўся ў 8—9 ст. У сац. адносінах К.— федэрацыя плямён, у рамках якіх фарміраваліся класы, дзяржаўнасць (княжанні), пранароднасць. У Полацку, паводле «Аповесці мінулых часоў», існавала сваё княжанне К.— палачан. Падобныя ўтварэнні ўзыходзяць да палітычных арганізацый часоў ваеннай дэмакратыі. У ваенна-адм. адносінах племянныя княжанні апіраліся на сістэму ўмацаванняў (Полацк, Віцебск, Лукомль, Браслаў), на аснове якіх пазней сфарміраваліся гарады. К. (відаць, пскоўскія) упершыню ўпамінаюцца ў «Аповесці мінулых часоў» пад 859. Яны ўдзельнічалі ў паходах Алега (907) і Ігара (944) супраць Візантыі. У канцы 10 ст. на тэр. рассялення полацкіх К. склалася Полацкае княства, насельніцтва якога названа К. ў летапісах пад 1127, 1129, 1140, 1162. Назва «крывіцкія землі» захоўвалася ў асобных выпадках за тэрыторыяй паўн. Беларусі да 1-й чвэрці 14 ст. У латышскай



Аўтар карты Г.В.Штыхаў

мове тэрмінам «К.» называюць усх. славян. Ад этноніма К., відаць, паходзяць назвы вёсак у Зэльвенскім, Іўеўскім, Салігорскім, Глыбоцкім, Пінскім, Докшыцкім, Ашмянскім, Мядзельскім, Смаргонскім і інш. раёнах Беларусі.

*Літ.:* 848, 1052, 1063, 1331.

*Г. В. Штыхаў.*

**КРЫЖЫ**, паселішча эпохі мезаліту каля в. Навалокі Віцебскага р-на. За 2,5 км на Пд ад вёскі ва ўрочышчы Крыжы, на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Зах. Дзвіна. Выявіў і даследаваў у 1933 К. М. Палікарповіч, абследаваў у 1988 У. П. Ксяндзоў. Культурны пласт каля 0,2 м. Выяўлены крамянёвыя вырабы, тронкавы наканечнік стралы, скрабкі з адшчэпаў, адшчэпы, косці высакароднага аленя. Паводле геалагічнага ўзросту Палікарповіч датаваў помнік барэальным часам.

*Літ.:* 722, 920. *Э. М. Зайкоўскі.*

**КРЫНІЦЫ КУЛЬТАВЫЯ**, язычніцкія свяцілішчы, звязаныя з культам вады. Апрача крыніц ушаноўваліся некаторыя азёры, калодзежы, вытокі буйных рэк. У «Аповесці мінулых гадоў» пра ўсх. славян часоў язычніцтва паведамляецца: «Бяху же тогда погані, окруще езером и кладезем и рощением». Прыхільнікі язычніцтва асуджаліся ў «Слове на памяць епіскапу»: «Ты бога оставив, рекам и источникам требы пологаешь и жреши яко богу твари бездушной». Кірыла Тураўскі ў сярэдзіне 12 ст. выказваў задавальненне з прычыны заняпаду паганства: «Не нарекутся богом стихии, ни солнце, ни огонь, ни источницы, ни древа». Гэтыя выказванні сведчаць, што славяне-язычнікі шанавалі як святыні крыніцы, азёры, калодзежы, рэкі і прыносілі ім ахвяры. Археолаг Ю. Уртанс выявіў на тэр. Латвіі сляды пакланення К.к. ў каменным веку.

На Беларусі сувязь азёр і язычніцкіх свяцілішчаў відаць на прыкладзе *Ходасавіцкага свяцілішча,* размешчанага на беразе Святога воз. На беразе воз. Святое ў Лепельскім р-не выяўлены сляды паселішча каменнага веку. Паводле легенды, на месцы возера стаяла царква, якая правалілася пад зямлю. Захавалася легенда, што каля воз. Валовае (цяпер у межах г. Полацка) размяшчаліся капішчы Перуна і Бабы Ягі. Каля г. п. Краснасельскі (Ваўкавыскі р-н), в. Драгунова (Расонскі р-н), в. Боркі (Пінскі р-н), в. Любанічы (Талачынскі р-н) і інш. вядомы крыніцы, якія ўшаноўваюцца як святыя, лічыцца, што вада з іх дапамагае ад многіх хваробаў. Каля в. Смаляры Барысаўскага р-на, каля падножжа Святаянскай гары ёсць Святая крыніца, дзе з даўніх часоў святкуюць Купалле. Каля в. Клінцы Слаўгарадскага р-на ёсць Сіні калодзеж, а за некалькі кіламетраў ад яго — 2 камяні-следавікі, паводле легенды звязаныя з ім. Каля в. Палыкавічы Магілёўскага р-на ў 1900-я г. былі крыніца і дуб, якія насельніцтва ўшаноўвала як свяшчэнныя. Каля вытоку р. Віліі (Докшыцкі р-н) размешчаны культавы камень Сцёп (Сцёб-камень, магчыма, ад літ. Stabas ідал). На думку польск. даследчыка У. Шафранскага, размяшчэнне свяцілішчаў каля крыніц, якім прыпісвалася апладняючая сіла, было звязана з культам багіні ўрадлівасці (магчыма, Берагіні). Пасля прыняцця хрысціянства царква вымушана была прыстасоўваць язычніцкія святыні да сваіх мэт, многія крыніцы набылі функцыі *прошчаў.*

*Э. М. Зайкоўскі.*

**КРЫНІЧНАЯ**, археал. помнікі каля в. Мірагошч-Горкі Чэрыкаўскага р-на.

Стаянка-майстэрня позняга мезаліту (6—5-е тысячагоддзі да н. э.). За 2 км на ПдЗ ад вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Сож, за 100 м на Пн ад вусця ручая Крынічнага. Адкрыў у 1928 К. М. Палікарповіч, даследавалі ў 1977—78 В. Л. Ліпніцкая, у 1972, 1984 і 1986 В. Ф. Капыцін. Ускрыта 406 м² культурнага пласта, які залягаў на глыб. 0,1—0,6 м.

Пры раскопках знойдзена больш за 15 тыс. крамянёвых рэчаў. На асобных квадратах канцэнтрацыя расшчэпленага крэменю перавышала 300 прадметаў, што сведчыць пра наяўнасць на паселішчы рабочых месцаў майстра па пярвічнай апрацоўцы крэменю. Многа зыходнай сыравіны: канкрэцыі, кавалкі крэменю і прадуктаў іх расшчаплення (нуклеусы, пласціны, адшчэпы, асколкі, лускавінкі). Сярод прылад працы — тронкавыя наканечнікі стрэл свідэроіднага тыпу, вастрыі, пласціны-ўкладышы, вырабы з выемкай, канцавыя скрабкі, двайныя, паўкруглыя і з «шыпам». Сярод разцоў ёсць рэтушаваныя і двухгранныя, але найбольш на вуглу зламанай пласціны. Шматлікія прылады выпадковага карыстання: пласціны і адшчэпы з рэтушшу. Для вырабу прылад выкарыстоўваўся цёмна-шэры крэйдавы крэмень, паклады якога знаходзяцца на беразе старыцы р. Сож. Матэрыялы помніка сведчаць аб пранікненні з Пд на тэр. Верхняга Падняпроўя асобных груп тацэнкі-кудлаеўскай культуры.

Кафля 16—17 ст. з **Крычава.**

Курганны могільнік радзімічаў. За 1,8 км ад вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Сож, абапал дарогі на в. Журавель, паміж стаянкамі Горкі і Крынічная. Адкрыў у 1928 Палікарповіч, абследаваў у 1989 Капыцін. 9 насыпаў выш. 0,5—1,2 м, дыям. 5—10 м.

*Літ.:* 573, 579, 683, 921.

*В. Ф. Капыцін.*

**КРЫПТА** (лац. crypta ад грэч. kryptē крыты падземны ход, тайнік), у стараж. Рыме падземнае альбо паўпадземнае памяшканне, у сярэдневяковай зах.-еўрап. архітэктуры — капліца пад храмам (звычайна пад алтаром), месца ганаровых пахаванняў. На Беларусі К. 12 ст. выяўлена ў 1928 І. М. Хозеравым пад будынкам Пятніцкай царквы Бельчыцкага Барысаглебскага манастыра ў Полацку. Мяркуецца, што тут быў пахаваны полацкі князь Барыс, заснавальнік манастыра. Шмат К. было ў бакавых прытворах храма-пахавальні 12 ст. полацкіх епіскапаў у Полацкім Спаса-Ефрасіннеўскім манастыры. К. вядомы ў каталіцкіх і уніяцкіх культавых збудаваннях 16 — пач. 20 ст., у т. л. пад касцёлам езуітаў і бенедыкцінак у Нясвіжы (фамільныя склепы Радзівілаў), брыгітак у Гродне, езуітаў у в. Юравічы Калінкавіцкага р-на, у капліцах-пахавальнях у в. Закозель Драгічынскага р-на, г. п. Мір Карэліцкага р-на, у Заслаўскай Спаса-Праабражэнскай царкве (б. кальвінскі збор) і інш.

*Т. В. Габрусь, Г. В. Штыхаў.*

**КРЫСЦІНКА**, папулярная назва *патагона* і яго фракцый у 1/2 і 1/4 ва ўсх. р-нах Беларусі ў 2-й пал. 17 ст.

**КРЫЦА**, рыхлы кавалак жалеза з розным і часта нераўнамерным размеркаваннем у ім вугляроду з дамешкамі шлаку і інш. уключэнняў. Для выдалення шлакаў К. прагравалі і пракоўвалі. З крычнага жалеза выраблялі прылады працы, зброю, прадметы ўжытку, упрыгожанні.

Знаходкі К. трапляюцца на гарадзішчах і паселішчах ад 7 ст. да н. э. да эпохі Кіеўскай Русі, што сведчыць аб валоданні стараж. насельніцтвам Беларусі спосабамі вытворчасці жалеза з

балотных руд у сырадутным *горне*. У раннім жал. веку кавалкі К. былі масай ад некалькіх дзесяткаў да соцень г. у перыяд позняга сярэднявечча — 25—50 кг. Сучасныя металургі К. называюць часцінкі металу да 10 мм у папярочніку, прыдатныя для электраметалургічнага пераплаву для атрымання якаснай сталі. Пры прамым аднаўленні з руды К. ўтваралася дзякуючы пераважна цвердафазнаму спяканню часцінак жалеза з удзелам у некаторых выпадках і вадкай фазы. Пра цвердафазнае спяканне сведчаць т. зв. «мосцікі» паміж часцінкамі, што назіраюцца пры мікраскапічным вывучэнні шлакаў.

*Літ.:* 278. *М. Ф. Гурын.*

**КРЫЧАЎ**, горад, цэнтр Крычаўскага р-на, на правым беразе р. Сож. За 104 км ад Магілёва, чыг. вузел (лініі на Магілёў, Оршу, Унечу і інш.), на аўтадарозе Бабруйск — Масква.





Залаты угорскі дукат 15 ст. з **Крычава.**

На тэр. К. выяўлены 2 гарадзішчы — Гарадзец і Замкавая гара. Гарадзішча Гарадзец размешчана ў паўн. частцы горада, на левым беразе ручая Крычавец, што ўпадае ў Сож. Пляцоўка яго моцна пашкоджана, зберагласця частка даўж. 50 м, шыр. 16 м на Пн і 5 м на Пд. Умацавана ровам шыр. 16 м, глыб. 5 м. У паўн. і ўсх. частках гарадзішча захаваўся вал выш. 1,5 м. Абследавалі ў розныя гады В. В. Сядоў, Г. В. Штыхаў, П. Ф. Лысенка, даследаваў у 1974 М. А. Ткачоў. Ускрыта 46 м$^2$. Культурны пласт каля вала 3,5 м, у зах. частцы — 2—2,5 м. Стратыграфічна ён падзяляецца на 3 гарызонты. Ніжні пласт таўшч. каля 1 м датуецца 7—1 ст. да н. э. У ім трапляецца кераміка *мілаградскай культуры*, на мацерыку знойдзены прылады працы і вогнішча эпохі неаліту. У гэты час быў узведзены абарончы вал выш. каля 1,5 м, на версе якога стаяў частакол. Сярэдні пласт (0,7—1 м) адносіцца да 1—7 ст. н. э. У ім выяўлена кераміка *зарубінецкай культуры* і 3-й чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. Абарончы вал неаднаразова ўмацоўваўся, знешні схіл яго быў забрукаваны. Верхні пласт (0,7—0,8 м) датуецца 10—13 ст. Сярод знаходак кераміка, пацеркі-лімонкі, шкляныя бранзалеты, наканечнікі стрэл, нажы, суліцы, скоблі, пінцэты. Ядром умацаванняў з'яўляўся вал больш позняга часу, на версе якога стаяў вастракол з 2 радамі стаўбоў. На Пн ад гарадзішча знаходзілася с е л і ш ч а (пл. каля 1 га). У 10—12 ст. гарадзішча і селішча складалі аснову першапачатковага Крэчута. У канцы 11 — пач. 12 ст. жыццё пачынае перамяшчацца з Гарадца на бераг Сожа, аднак у пач. 14 ст. яно тут спынілася.











Кафля 16—17 ст. з **Крычава.**

Гарадзішча Замкавая гара размешчана за 700 м на ПдУ ал Гарадца, на высокім правым беразе Сожа. Пляцоўка авальнай формы (100×60 м) аддзелена ад астатняга плато ровам шыр. 30—70 м. З паўн., зах. і паўд. бакоў збярогся абарончы вал выш. каля 5 м і шыр. у аснове каля 22 м. Даследавалі ў 1967 Штыхаў, у 1973—76 Ткачоў, у 1987—88 А. А. Мяцельскі. Культурны пласт на большай плошчы гарадзішча пашкоджаны пазнейшымі перакопамі і лепш захаваўся ў паўд. частцы, дзе дасягае 3,5 м. У інш. месцах яго таўшч. вагаецца ад 1 да 3 м. Найб. раннія матэрыялы адносяцца да мілаградскай пары, якая прадстаўлена керамікай і каменнымі прыладамі працы. Напластаванні сярэдзіны 12—13 ст. маюць магутнасць ад 10 см да 1 м каля вала. У ім выяўлены шыферныя праселкі, ганчарны посуд, шкляныя бранзалеты і пацеркі, наканечнікі стрэл, ключы, крэсівы, нажы, прабоі. Знойдзены меч рубяжа 13—14 ст., рэшткі драўляных жытлаў з печамі-каменкамі. Пабудовы групаваліся ўздоўж трасы вала. У наслаеннях 14—17 ст. выяўлены шмат глінянага посуду, нажы, ключы, замкі, наканечнікі

стрэл, арбалетныя балты, разнастайная кафля 15—17 ст., калекцыя манет, у т. л. залаты угорскі дукат 15 ст., каменныя і чыгунныя ядры. Абарончыя збудаванні былі ўзведзены ў 12 ст. Яны складаліся з кальцавога вала (выш. 1,5 м) і сцен зрубнай канструкцыі наверсе. У 13—17 ст. вал неаднаразова падсыпаўся, у 17 ст. перабудаваны і расшыраны.

Першапачатковы п а с а д К. («Зубялышынскі») пачаў развівацца на суседняй з гарадзішчам Спаскай гары. У 12—13 ст. ён займаў пл. больш за 1 га і быў умацаваны валам. З 14 ст. пачынаецца развіццё пасада і з інш. бакоў гарадзішча.

Упершыню К. згадваецца ў 1136 пад назвай Крэчут ва Устаўной грамаце смаленскага кн. Расціслава Мсціславіча. У 1-й пал. 14 ст. К. далучаны да Мсціслаўскага княства. З 2-й пал. 14 ст. ў ВКЛ. У 1653 горад атрымаў магдэбургскае права. З 1772 К. у складзе Расійскай імперыі, мястэчка Магілёўскай губ., належала графу Р. А. Пацёмкіну. Гл. таксама *Крычаўскія гарадскія ўмацаванні, Крычаўскі замак.*

*Літ.:* 45, 48, 848, 1056а, 1193, 1194, 1194а. *А. А. Мяцельскі, М. А. Ткачоў.*

**КРЫЧАЎСКІ ЗАМАК.** Існаваў у 14—18 ст. на правым беразе р. Сож. Займаў пляцоўку берагавога плато пл. больш за 0,5 га і выш. каля 15 м над узроўнем ракі, дзе ў канцы 11—13 ст. месціўся дзядзінец старраж. *Крычава.* Замак аддзяляўся ад горада глыбокім (каля 15 м) і шырокім (больш за 42 м) ровам. Круглаватая ў плане пляцоўка К. з. была абведзена па перыметры кальцавым пясчана-гліністым валам вышынёй больш за 5 м над замкавым падвор'ем. У розны час вал не менш як 5 разоў падсыпаўся, а ў 1-й пал. 17 ст. зведаў моцную рэканструкцыю, у выніку якой на зах. участку абароны ён быў зрэзаны і перамешчаны ў бок абарончага рова. Гэта пашырыла замкавы двор і дазволіла размясціць каля вала новыя гасп. пабудовы. Картаграфічныя матэрыялы 16—17 ст. і інвентары замка 17—18 ст. сведчаць пра стабільнасць планава-кампазіцыйнай схемы драўляных абарончых збудаванняў на працягу стагоддзяў. Комплекс умацаванняў К. з. складаўся з 5 вежаў, у т. л. вежы-брамы. Сцены фартыфікацыі мелі выгляд «клетей замковых» тыпу 2-ярусных гародняў. На верхнім баявым ярусе, «за бланкованьем», у час аблогі стаялі абаронцы замка, на ніжнім, як адзначае адзін з дакументаў 17 ст., «мещане подчас небеспечности от неприятеля мешкають» разам з сем'ямі, каштоўнай маёмасцю і дакументамі. Пры неабходнасці ніжні ярус мог быць пераабсталяваны для вядзення агню. Ад долу і да «бланкованья» сцены-гародні абмазваліся глінай. Баявая галерэя была накрыта дранічнай стрэшкай. Уязная прамавугольная ў плане 2-павярховая замкавая вежа-брама рубілася з брусоў таўшч. у 2 бервяны (тэхніка «совито»), мела падвойныя 2-створкавыя вароты «на бегунах, з зашчэпкамі, прабоямі і замком прывесістым». На доле размяшчаліся кардыгарда, вязніца-турма, варта з 6 чал. з мушкетамі і бердышамі, 2—3 гарматы (у 1693 — 1 шмыгаўніца і 2 бронзавыя палявыя гарматы). Ход на 2-і паверх, дзе таксама стаялі гарматы, быў зроблены з боку замкавага двара ў выглядзе «ўсхода з ганкам, пакрытым драніцамі». Над гонтавай страхой узвышаўся бляшаны флюгер-«ветранік». Сцены вежы былі таксама абмазаны глінай. Паводле інвентара за 1693, злева ад вежы-брамы ішло прасла сцен-гародняў і бастыёнаў-вывадаў, т. зв. «кватэра меская», якая ўпіралася ў вежу «Рагавую да Сожа». Абедзве вежы будавалі, даглядалі і рамантавалі мяшчане. Уздоўж усх. краю замкавай гары, ад Сожа, знаходзіліся ўчасткі «кватэры валасной», якая ўключала гародні і дзве 2-ярусныя вежы — Сярэднюю і «другую Рагавую», або «Патаемную». Першая вежа завяршалася дранічным дахам, другая выконвала ролю «тайнічнай вежы», паколькі тут размяшчаўся «патаемнік», які адчыняў ход да ракі. Ад «Патаемнай» вежы траса вала паварочвала на Пд, дзе знаходзілася «кватэра» Кашанскай воласці. Тут стаялі гародні і апошняя, 5-я вежа — «Кутняя». Яна была 2-ярусная, сечаная ў 2 бервяны, пад дранічным дахам. Ад «Кутняй» вежы да вежы-брамы цягнулася шляхецкая «кватэра» ў выглядзе суцэльнай лініі 2-ярусных гародняў. На замкавым двары былі драўляная царква св. Міколы, дом дзяржаўцы, свіраны, стайні, пограбы, жылыя будынкі служак, цэйхгауз-«скарбец» для захоўвання пораху, амуніцыі і рознай зброі. Пабудаваны з дрэва і ўвесь абмазаны звонку і знутры глінай цэйхгауз меў уваход з ганкам, зачыняўся драўлянымі кратамі і моцнымі падвойнымі дзвярамі са складанай сістэмай запораў. Мелася і студня. Знешнімі прыроднымі ўмацаваннямі К. з. з'яўляліся р. Сож і штучны стаў «Зубялышанская сажалка», зробленая на ручаі з ПдЗ, а таксама сухі абарончы роў з З. Цераз роў быў перакінуты драўляны мост, які будавалі і рамантавалі мяшчане, што жылі на шляхецкіх юрыдыках. На працягу стагоддзяў канструкцыя моста неаднаразова мянялася. Яго ладзілі і на высокіх палях, і на зрубах-«ізбіцах», абгароджвалі парэнчамі. Пасярэдзіне быў пад'ёмны пралёт-«узвод» на 4 жал. ланцугах і 2 вял. завесах з крукамі. Пры ўездзе на мост стаяла будка фельдвахты, быў шлагбаўм. За «ўзводам» знаходзіліся 2 невял. брамкі-«форткі», праз якія траплялі да брамы. Можна меркаваць, што перад ёй таксама быў «узвод». Як і ў кожным тагачасным замку, у К. з. меўся «звон ратный».



**Крычаўскі замак.** План.

Ён вісеў у царкве св. Міколы і ў выпадку ваен. небяспекі апавяшчаў жыхароў горада. К. з. перажыў шматлікія аблогі ў 1507, 1508, 1514, 1535, 1633 (тройчы), 1648, 1651, 1654, 1658, 1661 і 1744. Гарматы і інш. агнястрэльная зброя пастаўляліся ў замак цэнтралізавана з Віленскага арсенала. У 1519 з 11 вял. гармат К. з. 7 было трафейных «маскоўскіх». Акрамя таго, у цэйхгаузе захоўваліся 33 палутарасніцы-грохаўніцы, 12 ручніц, 3 фуглірыкі, 9 бочак пораху, арбалеты. У цяжкія часы абароны сюды часта прывозілі гарматы з Магілёва. Часам у К. з. размяшчаліся гарнізоны рэгулярных войск. Так, у 1534 тут стаяла 200 коннікаў і столькі ж салдат-драбаў каралеўскага ротмістра Пясецкага. Абаронай і ваенным будаўніцтвам займаліся і жыхары Крычава і воласці. Паводле інвентара за 1673, у К. з. мелася па 2 бронзавыя і жалезныя палявыя гарматы, 1 шмыгаўніца, 24 гакаўніцы, 13 жал. штурмачкоў, 33 мушкеты, 270 фунтаў пораху, 1,5 тыс. мушкетных, 230 гарматных і гакаўнічных куль, гранаты, волава, мушкетны кнот і інш. Захоўваліся больш за 150 бочак зерня (пшаніца, жыта, ячмень, гарох, грэчка), мёд, соль, паташ. У 1679 у замку пастянна знаходзіўся невял. гарнізон: «жаўнеры — 24 чалавекі, 1 афіцэр, 1 барабаншчык, драгунаў — 14 радавых, 1 харунжы, 1 барабаншчык». Гэта новая з'ява ў прынцыпах абароны К. з. была выклікана яго стратэг. значэннем. У 1690 гетман ВКЛ Казімір Сапега адзначаў, што замак быў пастаўлены «як ад Масквы, так і ад казакоў каля ўвахода ў дзяржаву». У рус.-польскую вайну 1654—67 у чэрвені — верасні 1654 К. з. асадзіла рус. войска ваявод Шарамецева і Шчарбатага. Рускі ертаульны полк не змог прамымі штурмамі авалодаць замкам. Пастаянная бамбардзіроўка К. з. з марцір 5-пудовымі і большымі ядрамі прывяла да вял. разбурэнняў і пажараў, якія тым не менш тушыліся. Агульная ваен. сітуацыя восенню 1654 складвалася яўна не на карысць войск ВКЛ, што паўплывала на знясілены гарнізон замка, і ён мусіў здацца. Хоць у канцы 17 ст. К. з. удалося цалкам аднавіць, сляды вайны яшчэ адчуваліся доўга. Паводле інвентароў за 1709 і 1729, у Паўн. вайну 1700—21 замак быў канчаткова разбураны. Адрадзіўся ён толькі перад 1744, калі змог вытрымаць штурмы паўстанцаў В. Вашчылы. У 1778 рус. ваенныя тапографы, якія здымалі план Крычава, зафіксавалі замак з частаколам на вяршыні вала і амаль засыпаны роў. Пасля 1780-х г. К. з. страціў сваё ваен. значэнне. Гл. таксама арт. *Крычаўскія гарадскія ўмацаванні.*

*Літ.:* 231, 314, 707, 708, 812, 1194.

*М. А. Ткачоў.*

**КРЫЧАЎСКІ КРАЯЗНАЎЧЫ МУЗЕЙ.** Адкрыты ў 1961 у г. Крычаў. Пл. экспазіц. залаў 298 м², каля 14 тыс. экспанатаў асн. фонду (1991), у т. л. 350 археал. знаходак: косці маманта, каменныя свідраваныя і дзяржанневыя сякеры, каменны таўкач, скроневыя кольцы, шкляныя пазалочаныя пацеркі, шыферныя праслінцы, арабскі дырхем з курганнага могільніка радзімічаў каля в. Бацвінаўка. У ліку знаходак пры раскопках на крычаўскім гарадзішчы Гарадзец і гарадзішчы Замкавая гара: шкляныя пацеркі, бранзалеты, ганчарны посуд, вял. асартымент кафлі, нажы, ключы і дэталі замкоў 10—17 ст. і інш. У нумізмат. калекцыі больш за 2500 сярэбраных і медных манет 17—20 ст. Рус. дзяржавы, ВКЛ, Рэчы Паспалітай і інш.

**КРЫЧАЎСКІЯ ГАРАДСКІЯ ЎМАЦАВАННІ.** Існавалі ў 14—18 ст. у сярэдневяковым г. *Крычаў.* Пасля пераносу ў канцы 11 — пач. 12 ст. ўмацаванага цэнтра з гарадзішча Гарадзец на Замкавую гару ўмацаванні гарадзішча выкарыстоўваліся жыхарамі паселішча да 14 ст. З узнікненнем на Спаскай гары новага гандлёва-рамеснага паселішча, т. зв. «Зубялышынскага пасада», вакол яго быў створаны самастойны пояс абароны, які ўключаў вал і драўляныя збудаванні. З У пасад засцерагалі воды і высокі правы бераг р. Сож, з ПдЗ — забалочаны роў і ручай. Пазней на ручаі была зроблена запруда з вял. ставам і млыном. Пра дакладную колькасць брам меркаваць цяжка, хоць з пісьмовых крыніц вядома «брама Зубялышынская», якая служыла выхадам з пасада на плаціну і да *Крычаўскага замка.* З паўд. боку стаяла, відаць, яшчэ адна брама, што адчыняла шлях на Прапойск і Магілёў. Каля 16 ст. «Зубялышынскі пасад» перамясціўся за забалочаны роў, заняўшы паўд.-зах. частку плато перад замкам. Тут адбываўся далейшы рост тэрыторыі сярэдневяковага Крычава. У 16 ст. гэта частка горада была абнесена земляным валам і драўлянымі сценамі. З Пн да яго прымыкалі крутыя схілы прыроднага яра і млынавы стаў на р. Крычаўка. Уезд і выезд з горада быў праз Мсціслаўскую і Магілёўскую брамы.

У студзені — сакавіку і снежні 1633 Крычаў тройчы асаджала войска данскіх казакоў С. Пірага, Балаша, Б. Нагога, Яраслаўца Малога, рус. ваяводы І. Тарбеева. У студз. 1633 атрады ваяводы Нагога «воевали мстиславские и кричевские места, и полону взяли польских и литовских людей с жёнами и с детьми с 3000 человек». У снеж. 1633 К. г. ў. аблогі не вытрымалі. Ваявода Тарбееў паведамляў цару, што «с ратными людьми в Кричеве большой острог взяли и многих польских и литовских людей побили и острог выжгли и к меньшому (замку) приступали многажды». Але замак выстаяў. Не здолелі авалодаць аднаўленымі К. г. ў. і замкам у 1648 і 1651 паўстанцы-сяляне і ўкр. казакі, якія потым былі разбіты падаспеўшымі атрадамі шляхты Мсціслаўскага і Аршанскага паветаў. У час рус.-польскай вайны 1654—67 К. г. ў. былі поўнасцю разбураны, аднак пазней адноўлены і ўпамінаюцца ў дакументах пад назвай «астрог». Пра яго наяўнасць ускосна сведчаць і назвы вуліц: «Астрогавая», «Затынская», «слабада Затын». Адсутнасць у гіст. крыніцах 18 ст. звестак пра К. г. ў. дае падставу меркаваць, што пасля Паўн. вайны 1700—21 умацаванні не адрадзіліся. Інвентары гэтага часу апісваюць Крычаў спустошаным, разрабаваным і абязлюдзелым, у якім пустых дамоў было больш, чым жылых. У сярэдзіне 18 ст. горад адбудаваны і паступова перасягнуў межы 16—17 ст. і старую лінію К. г. ў. Узнікла новая вуліца «Юр'еўская-Перакоп, названая таму, што ў час даўняй вайны там быў закладзены шанец». Адрадзілася жыццё на гарадзішчы «Гарадзец». Горад паступова перасягнуў Крычаўку і сфарміраваў 3 новыя раёны: Падгарадзішча, Загарадзішча і Гарадзішча. Пра апошняе ў дакуменце за 1747 сказана: «Гарадзішча старое на гары высокай, поўцыркуля якой змыла рэчка Крычаўка. Калісьці замак стаяў тут». Сляды К. г. ў. зніклі.



**Крэва.** Руіны Крэўскага замка. Выгляд з Юравай гары.

*Літ.:* 231, 314, 707, 708, 812, 1194.
*М. А. Ткачоў.*

**КРЭ́ВА,** вёска, цэнтр сельсавета Смаргонскага р-на. За 21 км ад Смаргоні, на шашы Мінск — Вільнюс. Паходжанне назвы К. не высветлена. Найбольш пераканаўчай з'яўляецца версія М. І. Ермаловіча, заснаваная на сугучнасці назвы вёскі з назваю племяннога саюза крывічоў (крэвічаў), што звязваецца з каланізацыяй крывічамі гэтых тэрыторый. Аднак нельга пакідаць па-за ўвагай і яе сувязь з тэрмінам «крэва-крывайтэ», якім пазначаўся вярхоўны літоўскі жрэц-вяшчун. Упершыню К. згадваецца ў нямецкіх хроніках 13 ст. як сталіца Нальшчанскай зямлі — раннедзяржаўнага ўтварэння балцкага племя нальшаў. Верагодна, у 12—13 ст. на крэўскім гарадзішчы знаходзілася ўмацаваная рэзідэнцыя нальшчанскіх князёў — драўляны замак. Гарадзішча мае авальную форму памерам 40×20 м, выш. 20 м. Умацавана землянымі валамі выш. да 5 м. Абследавалі ў канцы 19 ст. Ф. В. Пакроўскі, у 1974 — Г. В. Штыхаў.

У 1884 і 1885 у К. знойдзены манетныя скарбы. Скарб 1884 складаўся з 84 білонных солідаў Рэчы Паспалітай і Шведскай Прыбалтыкі, схаваны ў 1650. У скарбе 1885 таксама прадстаўлены манеты Рэчы Паспалітай. У 1985 А. К. Краўцэвіч заклаў 5 шурфаў у раёне гал. плошчы б. мястэчка. Культурны пласт 1—2 м. З археал. матэрыялаў пераважаюць бытавы посуд (непаліваны мораны і шкляны), кафля (гаршковая з квадратным вусцем і пласцістая). Найб. ранняя знаходка — фрагмент гаршка 14 ст. з кропкавым і лінейным арнаментам. Сярод пласціністай кафлі вылучаецца тэракотавая 2-й пал. 16—17 ст. з рэнесансным арнаментам — вазы з кветкамі. Сярод кафлі з зялёнай палівай выклікаюць цікавасць экземпляры 2-й пал. 17 ст. з дывановым арнаментам («сонца»). Параўнальны аналіз матэрыялаў мястэчка і замка сведчыць пра агульнае паходжанне бытавых рэчаў (за выключэннем элітарных вырабаў). У некаторых месцах выяўлены сляды каменнай брукоўкі.

У 1258 К. зведала напад татара-мангольскіх войск хана Бурундая і валынскага кн. Васількі Раманавіча. У міжусобнай барацьбе паміж Літвой і Жэмайціяй у 1260-х г. Нальшчаны падтрымалі Жэмайцію. У 1263 нальшчанскі кн. Доўмант забіў вял. кн. ВКЛ Міндоўга, пасля чаго навагрудскі кн. Войшалк заваяваў Нальшчаны і ўключыў К. ў склад ВКЛ. З 14 ст. мястэчка К. развівалася ў непасрэднай сувязі з *Крэўскім замкам,* побач з якім і фарміравалася цэнтр. плошча. Будаўніцтву мураванага замка спрыялі асаблівасці мясцовасці. Наваколлі К. былі бязлеснымі, але густа ўсеяныя камянямі. Пэўную ролю ў агульным абарончым комплексе выконвала і Юрава гара, што знаходзілася на У ад замка і з'яўлялася дамінантай наваколляў. Магчыма, гэта гара была звязана з язычніцкімі вераваннямі, пра што сведчыць і яе назва.

У 14—20 ст. К. вядома і як цэнтр ганчарнага промыслу (гл. *Крэўская кераміка*). У 1338 мястэчка разам з замкам вял. кн. ВКЛ Гедымін перадаў свайму сыну Альгерду (з 1345 вял. князь).Верагодна, да гэтага часу адносіцца і пасяленне ў К. татар. Потым па спадчыне яно належала сыну Альгерда кн. віцебскаму Ягайлу. Ягайла актыўна скарыстоўваў свой крэўскі ўдзел для барацьбы за велікакняжацкі пасад. Менавіта ў К. знаходзіліся ў зняволенні ў 1382 яго праціўнікі — вял. князі ВКЛ Кейстут і Вітаўт, але апошняму пашанцавала выратавацца, а Кейстут быў забіты. Тут прымалі польскіх паслоў і была падпісана Крэўская унія 1385. У 1387 па загаду Ягайлы ў К. заснаваны адзін з першых у ВКЛ касцёл, які быў дэманстратыўна закладзены на рэштках язычаскага капішча, куды прыходзілі аддаваць даніну павагі Перуну мясцовыя крывічы і літоўцы. Пошук месцазнаходжання капішча і касцёла 14 ст. трэба лічыць перспектыўнай мэтай. Магчыма, гэта было ўзвышша, дзе ў 20 ст. знаходзіўся касцёл (зараз будынак бальніцы).

Пасля таго, як Ягайла стаў польскім каралём (1386), ён перадаў К. свайму брату Аляксандру-Вігунду. У 1391 Аляксандр-Вігунд быў атручаны, а Крэўскі ўдзел ліквідаваны. Паводле адм.-тэрытарыяльнага падзелу К. ўваходзіла ў склад Ашмянскага пав. Віленскага ваяводства. Але на працягу стагоддзяў К. заставалася ў пэўнай ступені сімвалам дзяржаўнасці і месцам барацьбы падчас усобіц; на яго часта звярталі ўвагу манархі. У 1433 К. захапіў мяцежны кн. Свідрыгайла. Вял. князь ВКЛ і кароль польскі Казімір IV Ягелончык, уступіўшы ў 1440 на трон, аднавіў у К. касцёл, даў яму права збіраць дзесяціну. Быў адноўлены і замак. Пачатак 16 ст. адзначаны трагічнымі для К. падзеямі: у 1503—06 яго некалькі разоў палілі крымскія татары, у 1519 пад час глыбокага рэйду на Беларусь яго захапілі маскоўскія войскі. У 1564 князь Андрэй Курбскі, збегшы ад дэспатызму Івана IV, атрымаў К. ад Жыгімонта II Аўгуста. У 17 ст. ў мястэчку адбываліся сацыяльныя хваляванні: захавалася грамата Зыгмунта III Вазы крэўскаму старосту ад 9.8.1601 пра забарону прыгнятаць мяшчан і сялян Крэўскай валасці. У 1626 канцлер ВКЛ Гаштольд аднавіў у К. старажытны касцёл і павялічыў яго пры-



**Крэва.** Руіны Крэўскага замка. Гравюра Н. Орды. 19 ст.




**Крэйцар трайны.** Германская «Свяшчэнная Рымская імперыя»: 1. Сольмс-Верхні (графства), Філіп Рэйнгард, 1616; 2. Сольмс-Ліхтэнштэйн (графства), Эрнст, 1613; Рэч Паспалітая: 3. Зыгмунт III Ваза, 1617.

ход. У 17—18 ст. К. мела магдэбургскае права, герб «Ляліву»: на блакітным полі выява сярэбранай шасцікутнай зоркі і залатога маладзіка, павернутага рагамі ўгору. Ратуша размяшчалася ў драўляных пабудовах замка. З 1795 К. ў складзе Расійскай імперыі, мястэчка Ашмянскага пав. Віленскай губ.

*Літ.:* 890, 1141. *А. І. Дзярновіч.*

**КРЭЙЦАР ТРАЙНЫ** (ням. Dreikreuzer, польск. trzykrucierze), 1) білонная манета Аўстрыі і пераважна паўд. Германіі сярэдзіны 16—17 ст., якая абарачалася па курсу *драйпэлькера.* 2) Білонная манета Рэчы Паспалітай, якую ў 1615—18 выпускалі для гандлю з Сілезіяй, дзе яна называлася «бёмам» (ням. Böhm грош).

Чаканіў Быдгашчанскі манетны двор (*лотавая проба* VII $^1/_2$, *лігатурная маса* 1,54 г). На *аверсе* — пагрудны (управа) партрэт Зыгмунта III Вазы, пад ім у авале адзнака наміналу — 3; кругавая легенда — SIGIS. III D. G. R. PO. M. D. L.— Сігіз[мунд] III Б[оскай] М[іласцю] К[ароль] ПО[льскі] В[ялікі] К[нязь] Л[ітоўскі]. На рэверсе — увянчаны каралеўскай каронай 4-дольны геральдычны шчыт з гербам Рэчы Паспалітай (па чарзе аднагаловы арол Польшчы і «Пагоня» ВКЛ), у цэнтры шчыток з родавым гербам дынастыі Вазаў (Снапок); пад шчытом — герб вял. *падскарбія* кароннага С. Ваўжыньскага (Хабданк); кругавая легенда — III CRV. REG. POL — III Крэ[йцара] Кар[алеўства] Поль[скага] і дата.

*Літ.:* 1671. *В. Н. Рабцэвіч.*

**КРЭМАЦЫЯ** (ад лац. crematio спальванне), спальванне трупаў, адзін з відаў пахавання ў многіх стараж. народаў. Гл. *Трупаспаленне.*

**КРЭМЕНЕАПРАЦОЎЧАЯ МАЙСТЭРНЯ,** месца апрацоўкі крэменю стараж. насельніцтвам. Звычайна знаходзілася ў мясцінах багатых крамянёвай сыравінай: паблізу выхаду крэменю на паверхню, агаленне ў рачных далінах і інш. Асн. прызначэнне майстэрняў — вытворчасць крамянёвых вырабаў. Гал. прыкмета — наяўнасць значнай колькасці прадметаў вытворчага комплексу: прылад вытворчасці, загатовак, паўфабрыкатаў, адходаў. Прылад працы мала — 0,1% ад агульнай колькасці знаходак.

Існавалі майстэрні: па першасным расшчапленні крэменю; спецыялізаваныя, дзе выраблялі адзін ці некалькі відаў прылад (напрыклад, сякеры, скрабкі); універсальныя, ці майстэрністаянкі, дзе выраблялі розныя віды прылад працы. Апошнія на Беларусі найчасцей сустракаюцца ў Падняпроўі, Пасожжы, Палессі (Бароўка, Баркалабава, Горкі, Крынічная, Аўрамаў Бугор, Камень і інш.). На іх рабіліся ўсе віды апрацоўкі крэменю — ад першаснай да гатовых вырабаў. У Панямонні, вядомым сваімі крэменездабыўнымі шахтамі, вытворчыя майстэрні існавалі пры шахтах, меліся спецыялізаваныя майстэрні і майстэрні-стаянкі каля шахтаў. Майстэрні-шахты размяшчаліся ў вусцях старых шахтаў, сценкі якіх ахоўвалі майстра ад ветру. На меладавой падлозе такіх шахтаў знаходзяць буйныя абпаленыя камяні, вуголле, вял. колькасць сколаў, аббіўня канкрэцыі, адшчэпы, адбойнікі. Майстэрня 2 каля г. п. Краснасельскі Ваўкавыскага р-на спецыялізавалася на вытворчасці скрабкоў: з 1300 знойдзеных тут крамянёвых прылад пераважную большасць складалі скрабкі розных памераў і прызначэння. Характэрным для майстэрні можа быць працоўнае месца майстра — шчыльнае скопішча расшчэпленых крамянёў на абмежаванай тэрыторыі, зрэдку ў паглыбленні. На Беларусі працоўныя месцы майстра па першасным расшчапленні выяўлены на помніках Сеньчыцы 2 на Палессі, Дубовы Лог, Лоша 1 і 2, Бабулін Бугор, Янава, Крынічная ў Падняпроўі, Краснасельскі 5, 6, 7 у Панямонні. Цікавай з'явай, што мае дачыненне да апрацоўкі крэменю, з'яўляюцца скарбы крамянёвых вырабаў. Найчасцей яны змяшчаліся ў невял. ямках з мэтай захоўвання вільготнасці, уласцівай толькі што здабытаму крэменю, ад якой залежала яго пластычнасць пры расколванні. На Беларусі скарбы крамянёвых вырабаў выяўлены на археал. помніках Янава, Лоша, Жураўель у Падняпроўі, Навасёлкі 2 на Палессі.

*Літ.:* 681, 682. *В. Л. Ліпніцкая.*



**Крэсіва** 17 ст. з Мінскага замка.



Да арт. **Крэўская кераміка.** Гліняная міска з Крэва. 16 ст.

**КРЭМЕНЬ,** мінеральнае ўтварэнне, якое складаецца з крышталічнага і аморфнага крэменязёму $SiO_2$. У першасным заляганні сустракаецца ў асадкавых пародах (вапняку, крэйдзе, даламітах) у выглядзе жаўлакоў, лінз і праслоек. Багатыя праслойкі К. залягаюць у крэйдавых адорвенях у Зах. Беларусі, дзе першабытны чалавек здабываў яго ў шахтах з дапамогаю рагавых прылад працы. На аголеных пакладах крэйды па берагах Сажа, Дняпра і ў вярхоўі Нёмана К. проста збіралі ці выкалупвалі. Крыніцай здабычы К. для першабытнага чалавека служылі і ледавіковыя адкладанні на Палессі.

На Беларусі К. залягае пераважна ў форме канкрэцый (жаўлакоў), бываюць і пластавыя залежы. Канкрэцыйныя К. разнастайныя: падобныя да валуноў, галінак, круглаватыя, радзей нагадваюць палачкі, гнёзды. Жаўлакі размяшчаюцца ў пародзе бязладна і нераўнамерна. Іх колер ад светла-шэрага да белага звонку і ад чорнага да светла-шэрага ў сярэдзіне. Неапрацаваныя канкрэцыі маюць кварцава-апалава-кальцытавую абалонку. Пры папярочным сячэнні канкрэцыі відаць кругавая слаістасць. Памеры канкрэцый разнастайныя: ад 10 см у папярэчніку і вагой 200—300 г да 40—60 см і вагой 20—25 кг. Канкрэцыі «сожскага» К. пераважна авальна-выцягнутай формы памерам ад 5—7 да 20 см. Колер іх ад смаляна-чорнага да светла-шэрага, унутраная маса ўсеяна кропкавымі ўключэннямі белаватага колеру. Зрэдку сустракаюцца К. і інш. па колеры (фіялетавы, руды), масе і форме. На афарбоўку і ўтварэнне на іх паверхні патыны ўплываюць тэмпература, прысутнасць у знешнім асяроддзі вокіслаў жалеза ці марганца і інш. фактары. Са здабытага К. першабытныя людзі выраблялі разнастайныя прылады працы: наканечнікі стрэл, дроцікаў, скрабкі, разцы, праколкі і інш. (гл. *Апрацоўка крэменю, Крэменеапрацоўчая майстэрня*). Яны карысталіся крамянёвымі прыладамі на працягу ўсяго каменнага веку, покуль не навучыліся выраблаць прылады з медзі і бронзы. Прылады з К. трапляюцца нават у помніках жал. веку. *В. Л. Ліпніцкая.*

**КРЭСІВА,** металічная прылада для высякання іскраў з крэменю. У археал. матэрыялах на тэр. Беларусі вядома з эпохі жал. веку да 18 ст., частая знаходка пры раскопках курганоў і сярэдневяковых гарадоў. Даўжыня К. найчасцей 6—13, шыр.— 2—3,5 см. Па форме вылучаюцца не менш як 5 тыпаў К.: абаранкападобныя (з язычком пасярод ударнага ляза і без яго), 2-лязовыя авальныя, 2-лязовыя прамавугольныя, санкападобныя, у выглядзе прамавугольнай пласцінкі з адагнутымі ўверх канцамі; існавалі і індывідуальныя яго формы. Насілі ў мяшочку разам з кнотам і крэменем каля пояса з левага боку.

*Літ.:* 46, 716, 1016, 1032, 1062. *Г. М. Сагановіч.*

**КРЭЎСКАЯ КЕРАМІКА,** вырабы крэўскіх рамеснікаў 14—17 ст., выяўленыя пад час археал. раскопак на тэр. *Крэўскага замка* (раскопкі А. А. Трусава і М. А. Ткачова, 1985). Непаліваны посуд, зроблены на ручным ганчарным крузе ў 14—16 ст., мае дамешкі жарствы ў

гліняная масе і носіць на сабе сляды абварвання.

Найбольш распаўсюджаныя тыпы арнаментаў — шматрадны стужкавы, хвалісты, лукатка, наколы. К канцу 16 ст. асартымент посуду становіцца больш разнастайны: розныя па памерах і афармленні венчыка гаршкі без ручак; міскі ў форме абрэзанага гаршка ці са злёгку або амаль гарызантальна адагнутым венчыкам (аналагі вядомы па раскопках у Гродне, Лідзе, Крычаве; першы тып місак часам выкарыстоўваўся як друшляк); макотры з аналагічна аформленым ці проста зрэзаным краем з наляпным жгутом і без яго; розныя па глыбіні і дыяметры круглаватыя патэльні з вертыкальным венчыкам (апошнія маглі мець полае дзяржанне). Выраблялі і характэрны для гарадоў Панямоння посуд з вертыкальным горлам — прататып гарлача. У 16—17 ст. побач з непаліваным выраблялі разнастайны сталовы і кухонны паліваны посуд (паліва зялёная і карычневая розных адценняў): плыткія рынкі, што паступова змянілі патэльні, без ножак; паліваныя і распісаныя па беламу ангобу (каляровым пад бясколерную паліву) талеркі і паўміскі розных памераў (паліваныя аздоблены шматрадным грабеньчыкам па борціку, канцэнтрычнымі кругамі з лукаткай паміж імі па донцы); збаны з шырокімі ручкамі; глякі з носам-злівам і без яго; круглыя і авальныя біклагі з вушкамі па баках; кубачкі і куфлі. Знойдзены таксама разнастайны дымлены і чорнагланцаваны посуд: талеркі, місачкі з вузкім гарызантальным борцікам і міскі з вертыкальным борцікам, упрыгожаныя галінкавым ці сеткавым глянцавым арнаментам. Акрамя посуду, крэўскія рамеснікі выраблялі паліваныя скарбонкі і люлькі, дымленыя падсвечнікі, тэракотавыя біканічныя і цыліндрычныя грузікі.

*А. А. Трусаў, Н. І. Здановіч.*

**КРЭЎСКІ ЗАМАК,** комплекс абарончых збудаванняў каля в. Крэва Смаргонскага р-на. Пабудаваны ў 14 ст. каля сутокаў рэчак Крэвянка і Шляхцянка. Ёсць падставы меркаваць, што яго ўзвядзенне пачалося ў канцы 13 ст. Замак даследавалі: у 1970 экспедыцыя Ін-та гісторыі АН БССР пад кіраўніцтвам М. А. Ткачова, у 1985 — архітэктурна-археал. экспедыцыя вытворчага аб'яднання «Белрэстаўрацыя» і археал. атрад гіст. ф-та Гродзенскага ун-та на чале з А. А. Трусавым і Ткачовым. З 1988 архітэктурна-археал. вывучэнне праводзіць экспедыцыя Бел. рэстаўрацыйна-праектнага ін-та пад кіраўніцтвам І. М. Чарняўскага.

Асноўная частка збудаванняў замка была размешчана на балоцістым поплаве, палова паўн.-ўсх. і паўн.-зах. абарончых муроў узведзены на штучна расшыранай пясчанай дзюне. Замак у плане — няправільны чатырохвугольнік, абнесены мураванымі сценамі. Паўн. сцяна даўж. 85 м, усходняя — 108,5 м, паўднёвая — 71,55 м, заходняя — 97,2 м. Таўшч. сцен 2,5—3 м, выш.— каля 12—13 м. Сцены ад асновы падмуркаў да ўзроўню баявой галерэі вымураваны з палявога каменю. На выш. каля 7 м ад першапачатковай дзённай паверхні па вонкавым перыметры сцены абляmаваны поясам шыр. 2 м з буйнапамернай цэглы. Замак меў 2 вежы, размешчаныя па дыяганалі. Узведзены яны праз 5—10 гадоў пасля будаўніцтва муроў. Паўн. нарожная Княжацкая вежа амаль квадратная ў плане (18,65×17 м), выступае за перыметр абарончых муроў. Мела не менш 4 паверхаў і склеп-турму ўнізе, пераходы паміж якімі былі зроблены ў тоўшчы сцен. Сцены да выш. 3 м складзены з камянёў, вышэй шчокі вымураваны з буйнапамернай цэглы, прамежак паміж імі забутаваны камянямі, бітай цэглай на вапнавай рошчыне. Першапачатковыя перакрыцці паміж паверхамі бэлечныя. У сярэдзіне 15 ст. па цэнтры вежы ўзведзены крыжападобны ў плане слуп, на які апіраліся нервюрныя скляпенні. Столь і сцены верхніх паверхаў былі аздоблены фрэскамі, выкананымі пераважна ў цёплай колернай гаме. Аснову іх складаў геаметрычны арнамент і выявы людзей. Уваход у вежу знаходзіўся на ўзроўні баявой галерэі. 3-і і 4-ы паверхі мелі вял. аконныя праёмы са спічастымі завяршэннямі, іх адкосы былі размаляваны фрэскамі. На гэтых паверхах размяшчаліся княжацкія пакоі. Ад Княжацкай вежы па дыяганалі праз замкавы двор да паўд. Малой вежы, прыбудаванай знутры да замкавых муроў, вяла брукаваная дарога шыр. каля 8 м. Памеры паўд. вежы 11×10,65 м. Уязная брама размяшчалася ў паўд.-ўсх. сцяне. Уздоўж паўн.-зах. сцяны на дзюне знаходзіліся жылыя і гасп. драўляныя будынкі. Ад некаторых з іх захаваліся фундаменты з камянёў і часткі драўляных канструкцый. На адлегласці каля 14 м ад Княжацкай вежы пад сцяной размяшчалася кузня, непасрэдна каля вежы — канавязь. На зах. краі дзюны бліжэй да ўязной брамы знаходзіўся прамавугольны ў плане мураваны будынак жылога прызначэння, даўж. каля 8 м. Пад будынкам быў склеп глыб. 3 м. У зах. паніжанай частцы замкавага двара размяшчаўся стаў з вадой.

Мураваныя пабудовы замка былі накрыты жалабатай дахоўкай, драўляныя — гонтамі. У 14—15 ст. печы выкладаліся з гаршковай кафлі. У канцы 16—17 ст. выкарыстоўвалася кафля з вонкавай пласцінай, аздобленай раслінным, геам. і сюжэтным арнаментамі. Іх асн. часткі былі пакрыты зялёнай палівай. Калекцыя археал. знаходак сведчыць пра інтэнсіўнае жыццё ў замку ў 14—17 ст., калі ён з'яўляўся рэзідэнцыяй вял. князёў. Шырокім асартыментам прадстаўлены керамічны сталовы і кухонны посуд (гаршкі, збаны, глякі, гладышы, біклагі, куфлі, талеркі, рынкі, латкі і іх фрагменты; гл. *Крэўская кераміка*), абломкі шкляных імпартных пасудзін, металічныя вырабы (падковы, замкі, ключы, адмычкі, кавальскія прылады і інш. гасп. начынне, наканечнікі стрэл і балты арбалетаў).

Крэўскі замак быў сведкам і месцам многіх гіст. падзей. У хуткім часе пасля пабудовы ён падвергся нападу. Пра гэта сведчаць рэшткі спаленай баявой галерэі і каменныя ядры, знойдзеныя ў час раскопак пад зах. сцяной. У 1382 тут у падзямеллі цэнтр. вежы паводле загаду вял. кн. ВКЛ Ягайлы быў задушаны яго дзядзька — кн. Кейстут — асн. прэтэндэнт на велікакняжацкі трон. У 1385 у К.з. выпра-



Раскопкі **Крэўскага замка.**

цоўваліся ўмовы Крэўскай уніі — аб'яднання ВКЛ і Польшчы пад уладай вял. кн. Ягайлы. У 1433 К.з. авалодаў кн. Свідрыгайла, які прэтэндаваў на велікакняжацкі трон. Летапіс паведамляе: «И приде ко Креву, и стояша 2 дни, взяша Крево мурованни и сожже, людей много посекоша и в полон поведоша». У 1503—06 замак неаднойчы асаджалі і значна пашкодзілі перакопскія татары. Нямецкі падарожнік і дыпламат Зігмунд Герберштэйн, які праязджаў тут у гэты час, пісаў: «Крэва — мястэчка з пакінутай крэпасцю». Але замак хутка быў адноўлены, бо ў 1519 у ходзе глыбокага рэйду на Беларусь войскі маскоўскіх ваявод «воеваша і плениша... Крев». У 2-й пал. 16 ст. тут жыў збеглы рус. кн. Андрэй Курбскі. Паступова замак губляў абарончае значэнне. Аднак у 18 ст. ён быў яшчэ ў добрым стане. Пазней пачалося яго разбурэнне, якое давяршыла 1-я сусветная вайна, калі праз Крэва праходзіла лінія фронту і больш за 3 гады вяліся пазіцыйныя баі. Замак аказаўся на тэрыторыі, захопленай немцамі. У яго Малой вежы і каля паўд. сцяны былі збудаваны бетонныя сховішчы, у замку створаны назіральныя пункты. У час іх абстрэлаў будынак, асабліва Княжацкая вежа, моцна пацярпеў: на 10° нахілілася паўн. сцяна, абвалілася абліцовачная цэгла. Польскія рэстаўратары ў 1929 умацавалі яе контрфорсам шыр. 2 м і законсервавалі. Абліцоўку Княжацкай вежы звязалі жал. сцяжкамі, залілі вапнавым растворам шчыліны, падмуравалі ўмацаваныя эскарпам рэшткі паўн.-ўсх. сцяны. Помнік уключаны ў турыстычны маршрут. Бел. рэстаўрацыйна-праектным ін-там распрацоўваецца праект яго кансервацыі і рэстаўрацыі.

*Літ.:* 1199, 1200.

*М. А. Ткачоў, І. М. Чарняўскі.*

**КСЯНДЗО́ВА ГАРА́,** паселішча *сярэднедняпроўскай культуры* каля Быхава. За 4 км на Пд ад горада, у пойме правага берага Дняпра, на пясчаным узгорку, які мясц. насельніцтва наз. Ксяндзовай гарой. Адкрыў у 1928 К. М. Палікарповіч, даследаваў 420 м² у 1956 і 1958 І. І. Арцёменка. Культурны пласт 0,3—0,4 м. Выяўлены рэшткі наземных жытлаў слупавой канструкцыі, складзеныя з камянёў агнішчы і ачаговыя ямы. Для вырабу прылад працы выкарыстоўвалі мясц. цёмнашэры крэмень.

Знойдзены: прылады працы — скрабкі, скрэблы, нажы, клінападобныя сякеры, наканечнікі дроцікаў, лістападобныя, ромбападобныя і трохвугольныя з выемкай каля асновы наканечнікі стрэл; фрагменты керамікі 3 тыпаў — посуд з прамой адагнутай вонкі шыйкай, круглаватым туламаў і плоскім дном, упрыгожаны адбіткамі перавітай вяровачкі, лінейным і зубчастым штампам, наразнымі лініямі, якія ўтвараюць трохвугольнікі, гарызантальныя і дыяганальныя рады; пласкадонныя пасудзіны слоікападобнай формы без арнаменту; танкасценныя пасудзіны з высокай адагнутай вонкі шыйкай, шарападобным тулавам і круглаватым дном. Помнік датуецца 2200—1400 да н. э.

*Літ.:* 79, 847, 865. *В. Ф. Капыцін.*

**КСЯНДЗО́Ў** Уладзімір Паўлавіч (н. 25.7.1951, в. Чарнаўчыцы Брэсцкага р-на), беларускі археолаг. Канд. гіст. навук (1980). Скончыў Магілёўскі дзярж. педінстытут (1973), выкладаў гісторыю ў сярэдняй школе. З 1978 супрацоўнік Ін-та гісторыі АН Беларусі. Даследуе помнікі палеаліту і мезаліту на тэр. Беларускага Падняпроўя і басейна Зах. Дзвіны. Вылучыў 2 этапы засялення тэр. Беларусі ў каменным веку, выявіў у мезаліце Падняпроўя і Падзвіння помнікі грэнскай, янІславіцкай і кунда археал. культур.



У. П. Ксяндзоў.

*Тв.:* Засяленне тэрыторыі Беларусі ў эпоху палеаліту // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1983. № 2; Новые мезолитические памятники юга Белоруссии // Сов. археология. 1984. № 2; Поздний мезолит белорусского правобережья Днепра // Там жа. 1986. № 1; Палеолит и мезолит Белорусского Поднепровья. Мн., 1988. *В. Л. Ліпніцкая.*

**КУБАК,** невялікая пасудзіна для піцця; найчасцей цыліндрычная, радзей збана- ці бочкападобнай формы з выразным донцам, адной ці дзвюма ручкамі (трапляюцца без ручак), звычайна без накрыўкі. Выраблялі К. з гліны, металу, каменнай масы (гл. *Рэйнскі посуд*), дрэва або шкла. Вялікая колькасць керамічных (радзей шкляных) К. знойдзена пры раскопках Віцебска, Мінска, Гродна, Магілёва, Крычава, Мсціслава, Слоніма, Лідскага, Мірскага і Гальшанскага замкаў і інш. Керамічныя К. былі пашыраны ў 16—17 ст. Іх унутраную, часам вонкавую паверхню да палавіны пакрывалі зялёнай або карычневай палівай (былі і паліхромныя), на плечуках К. ўпрыгожвалі разнастайным штампаваным і рыфленым (Панямонне) або рыфленым і наляпным (Магілёўшчына) арнаментам. У 18 ст. сустракаюцца рэдка, іх форма паступова мяняецца і ў 19—20 ст. саступаюць месца цыліндрычным шырокім пасудзінам з вушкам з той жа назвай. Часам К. выкарыстоўвалі як ёмістасць для падліўкі ці сталовы посуд для дзяцей.

*Літ.:* 931. *Н. І. Здановіч, А. А. Трусаў.*

**КУ́БЛІЧЫ,** група археал. помнікаў каля в. Кублічы Ушацкага р-на.

Г а р а д з і ш ч а *днепра-дзвінскай культуры.* За 500 м на У ад вёскі, на востраве Кубліцкага воз. Авальнае ў плане, памер 30×65 м, выш. 6—8 м. Выявіў у 1928 І. А. Сербаў, даследаваў у 1964—66, 1968 К. П. Шут. Ускрыта 736 м², у 1982 абследаваў В. І. Шадыра. Культурны пласт у цэнтры таўшч. 0,25—0,35 м, каля краёў — да 1,2 м. Выяўлены рэшткі наземных жытлаў слупавой канструкцыі, што размяшчаліся ўздоўж краю пляцоўкі. Унутры іх прасочаны адкрытыя агнішчы, абкладзеныя камянямі.

Керамічны матэрыял у асноўным (90%) складаюць слабапрафіляваныя слоікападобнай формы гаршкі днепра-дзвінскай культуры, 10% — культуры штрыхаванай керамікі. Выяўлена некалькі фрагментаў керамікі з адбіткамі тканіны. Сярод знаходак — жал. нажы, сярпы, рыбалоўныя кручкі, шылы, наканечнікі стрэл, разнастайныя ўпрыгожанні з жалеза і бронзы (посахападобныя шпількі, пярсцёнкі, бляхі, бранзалеты), прылады працы з крэменю. Зафіксаваны рэшткі печы-домніцы, у якой выплаўлялі жалеза, шмат шлакаў, каменныя кавадлы, зерняцёркі.

Датуецца 4 ст. да н. э.— 3 ст. н. э.

К у р г а н н ы  м о г і л ь н і к-1. На паўд.-зах. ускраіне вёскі. 10 курганоў: 4 прадаўгаватыя (10×16,9×14 м), выш. 2,5—3 м, астатнія круглыя дыям. 8—12 м, выш. 0,3—2,5 м. Выявіў у 1903 М. Ф. Кусцінскі, абследавалі ў 1928 І. А. Сербаў, у 1971 А. Г. Калечыц. Раскопкі не праводзіліся.

К у р г а н н ы  м о г і л ь н і к-2. За 300 м ад могільніка-1, ва ўрочышчы Валатоўкі. Мясц. назва Чырвоны бор. 126 насыпаў дыям. 5—8 м, выш. 0,5—2 м. Выявіў у 1903 М. Ф. Кусцінскі, абследавалі ў 1928 І. А. Сербаў, у 1971 А. Г. Калечыц. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* 629, 1081, 1313, 1366.

*В. І. Шадыра.*

**КУБЛІ́ШЧЫНА,** курганны могільнік балта-слав. насельніцтва 10—12 ст. каля в. Кублішчына Міёрскага р-на. За 600 м на ПнУ ад вёскі, у лесе, справа ад шашы Міёры — Новы Пагост, ва ўрочышчы Валатоўкі. Выявіў у канцы 19 ст. Ф. П. Пакроўскі, абследавалі ў 1938 –39 А. Цэгак-Галубовіч і У. Га-

лубовіч, у 1973 А. Р. Мітрафанаў, у 1977, 1978, 1980 Л. У. Дучыц раскапала 22, у 1986 Дучыц і В. І. Шадыра — 3 курганы. Захаваліся 62 курганы, астатнія разбураны пры распрацоўцы кар'ера. Насыпы круглыя, дыям. 3—17 м і авальныя выш. 0,3—1 м. Каля асобных курганоў прасочваюцца раўкі. Пахавальныя абрады — трупаспаленне ў ямах і трупапалажэнне на гарызонце галавой на З. У парным пахаванні жаночы шкілет арыентаваны на ПдЗ, мужчынскі — на ПнУ.

Пахавальны інвентар: нажы, калачападобнае крэсіва, наканечнік кап'я, вітыя бранзалеты з завязанымі канцамі, 3 лірападобныя спражкі, адзін бранзалет з расшыранымі канцамі, 2 бразготкі з крыжападобнай прарэззю, 5 спіральных пранізак, 2 паясныя кольцы дыям. 33 м, 6 паўтараабаротных кольцаў. Знойдзена ляпная кераміка і 5 ганчарных пасудзін. Адна з іх арнаментавана лініямі і насечкамі, на днішчы другой — кляймо ў выглядзе 2 прасечаных ліній.

*Літ.:* 241, 338, 909. *Л. У. Дучыц.*

**КУДЛАЕЎСКАЯ КУЛЬТУРА,** археал. культура плямён, якія ў 2-й пал. *мезаліту* жылі на ПнУ Украіны, ПдУ Беларусі. Назва ад помніка Кудлаеўка (Сярэдняе Падзісенне), які адкрыў у 1925 М. Я. Рудзінскі. У літаратуры К.к. вядома таксама пад назвамі «тацэнка-кудлаеўская культура» (Л. Л. Залізняк), помнікі «тыпу Кудлаеўкі» (С. К. Казлоўскі, Д. Я. Цялегін). Для К.к. характэрны мікралітычныя прылады працы: невялікія адна- і двухпляцовачныя нуклеусы, вастрыі тыпу Каморніца, канцавыя, круглаватыя скрабкі, тронкавыя наканечнікі стрэл, пласціны з затупленым рэтушшу краем, вуглавыя і бакавыя разцы, загатоўкамі для якіх служылі адшчэпы. Генезіс К.к. большасць даследчыкаў звязвае з насельніцтвам *каморніцкай культуры.* На Беларусі да К.к. адносяць помнікі *Белая Сарока, Крынічная,* Тацэнкі і інш.

*Літ.:* 407, 1171. *У. П. Ксяндзоў.*

**КУЗЬМАЎШЧЫНА,** курганны могільнік каля в. Кузьмаўшчына Браслаўскага р-на. За 500 м на ПдУ ад вёскі. Захаваліся 3 насыпы авальнай формы выш. 0,7—1,5 м. Абследаваў у 1938 М. Пецюкевіч, у 1979 Л. У. Дучыц раскапала 2 курганы. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце. Знойдзены металічныя шалі вагаў, жал. наканечнік кап'я, сякеры, абломак крэсіва, ляпны і ганчарны посуд.

**КУКЕНОЙС** (Kukenojs, Кукейнос, Кокнесе, Кокенгузен), старажытны горад, адзін з фарпостаў Полацкага княства. Размешчаны на правым беразе Зах. Дзвіны, за 246 км ад Полацка. Цяпер г. п. Кокнесе Стучкінскага р-на (Латвія). Упершыню ўпамінаецца ў «Хроніцы Лівоніі» Генрыха Латвійскага пад 1205, а пад 1206 названы рус. горадам. Складаўся з замка (дзядзінца) пл. 0,2 га, вакольнага горада (форбурга) 0,4 га і ўмацаванага пасада 0,3 га. На ўсіх частках помніка ў 1961—66 раскопкі праводзіў А. Я. Стубаўс, ускрыта 1128 м². У культурным пласце гарадзішча таўшч. 7 м зафіксавана 14 гарызонтаў 4 этапаў яго засялення.

Самы ранні пласт са штрыхаванай керамікай і пабудовамі слупавой канструкцыі належыць да рубяжа н. э. У пластах 5—6 ст. знойдзены рэшткі слупавых пабудоў з агнішчамі, гладкасценная і паліваная кераміка, нажы, гліняныя прасліцы, жал. шпілька. З 10 да пач. 13 ст. пляцоўка дзядзінца была шчыльна забудавана жытламі з глінабітнымі і каменнымі печамі, зрубнымі гасп. пабудовамі. Знойдзена: шмат прылад працы і прадметаў побыту гэтага часу — сякеры, нажы, напільнікі, свярдзёлкі, тыглі, шыферныя прасліцы, грабяні, замкі і інш.; упрыгожанні — бронзавыя і сярэбраныя пярсцёнкі, бранзалеты, фібулы, пацеркі, шыйныя грыўні, шкляныя бранзалеты; фрагменты гарызантальнага ткацкага станка рубяжа 12—13 ст., лезіва (прылада бортніцтва 11—12 ст.). У пласце 11—12 ст. знойдзены 2 падвескі з выявай трызубца — радавога знака Рурыкавічаў, да якіх належалі і полацкія князі. На вакольным горадзе раскапана 483 м². Культурны пласт таўшч. да 6,5 м мае 11 гарызонтаў: 6 верхніх адносяцца да перыяду існавання каменнага замка, 5 ніжніх — да 11—13 ст. У іх выяўлены драўляныя жылыя пабудовы памерам 3,9×4 і 4,2×5,1 м. Каля адной пабудовы заўважана прызба — характэрная дэталь пабудоў Кіеўскай Русі, у т. л. Полацка і Мінска. Раскапана комплексная забудова: жылыя хаты разам з хлявамі і загарадзь для жывёлы. Знойдзены прылады працы (косы, сярпы, свёрлы, нажніцы), зброя (наканечнікі стрэл і коп'яў), шпоры, прадметы хатняга ўжытку (замкі, ключы, касцяныя грабяні, драўляны посуд, зроблены на такарным станку, качарга, дэталі маслабойкі, берасцянкі з лубу і бяросты і інш.), упрыгожанні (бронзавая шыйная грыўня з трапецападобнымі падвескамі, бранзалеты спіральныя і з галоўкамі жывёл, падковападобныя фібулы, бронзавыя бразготкі, спіральныя пярсцёнкі, ланцужкі, бурштынавыя і бронзавыя падвескі), прадметы культу (бронзавы крыжык і падвескі-амулеты з зубоў мядзведзя і ваўка). З імпартных рэчаў выяўлены шкляныя бранзалеты, пацеркі, шыферныя прасліцы, ракавіны каўры, тканіна, амфара. Вялікае значэнне мае свінцовая віслая пячатка, якая, магчыма, належала маці Ефрасінні Полацкай.




Рэчы з курганнага могільніка **Кублішчына:** 1 — бразготка; 2—3 — пярсцёнкі; 4, 9 — фібулы; 5—7 — лірападобныя спражкі; 8 — бранзалет.

К. узнік на месцы паселішча ранняга жал. веку, з 2-й пал. 11 — пач. 13 ст. ён належаў Полацкаму княству. Драўляны замак — рэзідэнцыя кн. Вячкі — спалены крыжакамі ў 1208; у 1209 на яго месцы пабудаваны мураваныя ўмацаванні. Замак быў фарпостам і цэнтрам феад. уладання княства ў Ніжнім Падзвінні, які меў цесныя гандл. і эканам. сувязі са Смаленскай, Наўгародскай і інш. землямі Кіеўскай Русі. Насельніцтва К. было этнічна мяшанае і складалася з мясц. балтаў (латгалаў і селаў) і славян.

*Літ.:* 222, 1136, 1346.

*Г. М. Семянчук.*

**КУКЛІ,** каменны могільнік каля в. Куклі Воранаўскага р-на. За 1,5—2 км на З ад вёскі, на пагорку сярод поля. Мясц. назва Баярскія магілы. Паходжанне могільніка мясц. жыхары тлумачаць як вынік вайны баяр з крыжакамі. Выявіла ў 1982 і абследавала ў 1988—89 А. В. Квяткоўская (48 пахаванняў), абследаваў у 1984 Я. Г. Звяруга.

Магілы згрупаваны па 2—3, цягнуцца няроўнымі радамі з Пн на Пд. Больш старажытныя чаргуюцца з пазнейшымі, ёсць падзахаванні. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў чатырохвугольных ямах (глыб. 0,8—1,3 м) галавой на Пд ці ПдЗ. Каменныя вымасткі авальнай і падоўжана-авальнай формы (2,1×1,5×0,25 м, 2,7×1,7×0,25 м) з камянёў сярэдніх і малых памераў, часткова ці поўнасцю разбураны. У галаве пахаванняў — большыя камяні. Пад вымасткамі выяўлены вуглі і фрагменты непаліванай ганчарнай керамікі чырвонага і брудна-жоўтага колераў. Чырвоныя гаршкі выраблены з дрэнна перамяшанай гліны і слаба абпалены, мелі невысокі, крыху адагнуты венчык. Па тулаву нанесены лінейны ці хвалісты арнамент. Некаторыя зроблены пад накрыўку. Датуюцца 12—13 ст. Брудна-жоўтыя гаршкі слоікападобныя, выраблены з добра перамяшанай гліны, раўнамерна абпалены. Звонку мелі ледзь прыкметнае рабро, па плечуках арнаментаваны перакрыжаванымі лініямі. Датуюцца 11—13 ст. Аналагі абодвух відаў гаршкоў у пахаваннях на ПдУ Літвы, у курганным могільніку Пуцілкавічы Ушацкага р-на. У запаўненні магілы знойдзены фрагменты керамікі, у слаі гумусу — жал. нажы, бронзавыя і медныя пярсцёнкі, бронзавая бразготка, двухлязовае крэсіва, паясное кольца, кавалак жал. пласціны і медная бляшка ад рыштунку каня.

Пад вымасткамі на глыб. 0,25—0,3 м сляды вогнішчаў, якія не дасягалі касцей. У большасці пахаванняў выяўлены рэшткі дамавін. Іх інвентар: медныя бляшкі ад галаўнога ўбору, шматпацеркавыя скроневыя кольцы з медзі і серабра, рознакаляровыя шкляныя пацеркі, бронзавыя бразготкі, медны крыжык, ракавіны кауры, сімвалічныя ключы, завушніцы, пярсцёнкі, грошы і інш. У 6 магілах без інвентару на зах. ускрайку могільніка пахавальны абрад вызначаецца наяўнасцю керамікі ў вогнішчах пад вымасткамі, дамавіны абмазаны глінай. Адноўлены з фрагментаў гаршчок мае тонкі прамы венчык, датуецца 17—18 ст. Яго аналаг у каменным могільніку Каматова Гродзенскага р-на. Могільнік датуецца 12—13 і канцом 14 — пач. 17 ст. *А. В. Квяткоўская.*

**КУЛЬБАЧЫНА,** гарадзішча 10—13 ст. Каля в. Кульбачына Шчучынскага р-на. За 800 м на З ад вёскі, на схіле спусцістага берага р. Астрынка. Пляцоўка авальная, памер 75×55 м, умацавана валам шыр. 12 м, выш. з Пн, Пд і У 3—3,5 м, з захаду, дзе знаходзіўся ўезд, 1,5—2 м і ровам шыр. 3,5—4 м з боку забалочанай поймы ракі. Выявіў у 1968 г. В. В. Сядоў. Той факт, што гарадзішча размешчана на беразе Астрынкі, даў падставу лічыць помнік стараж.-рус. горадам Астрэя. Аднак раскопкамі гарадзішча на воз. Астрые (Пскоўская вобл.), праведзенымі экспедыцыяй Эрмітажа, навукова даказана месцазнаходжанне летапіснай Астрэі на Пскоўшчыне. Помнік абследаваў у 1975 М. А. Ткачоў, даследаваў (зрабіў прарэзку вала і раскапаў 160 м$^2$) у 1989—90 С. А. Піваварчык. Культурны пласт 0,2—1 м.

Выяўлены развалы печак-каменак, ганчарная кераміка, жал. наканечнікі стрэл, ланцэтападобны наканечнік дзіды з утулкай 10—11 ст., арнаментаванай рэльефнымі равочкамі (упершыню на Беларусі), гліняныя праслíцы, тачыльныя брускі, ручныя жорны, касцяныя праколкі і качадык для пляцення, рыбалоўны кручок, падковападобная фібула, жал. вырабы, косці свойскіх і дзікіх жывёл. Прарэзка вала паказала, што ён насыпаны ў адзін прыём адначасова з узнікненнем жыцця на паселішчы ў канцы 10 — пач. 11 ст. Ядро вала з гліны, знешні схіл быў забрукаваны каменнем.

За 200 м на Пн ад вёскі і за 300 м на Пд ад гарадзішча — 2 курганныя могільнікі (5 і 4 насыпаў).

*Літ.:* 128, 1054. *С. А. Піваварчык.*

**КУЛЬТ ЖЫВЁЛ,** рэлігійнае шанаванне жывёл, вера ў тое, што яны альбо пэўныя часткі іх цела маюць магічныя ўласцівасці. Узнікненне К.ж. звязана з татэмізмам і магіяй. Напр., дзеля таго, каб набыць пэўныя ўласцівасці жывёл (іх сілу, спрыт і інш.), з іх касцей і зубоў людзі рабілі *амулеты.* Магічнымі лічыліся выявы жывёл. У старажытнасці К.ж. быў распаўсюджаны практычна ва ўсіх народаў свету.

На Беларусі найб. раннімі знаходкамі, якія сведчаць пра К.ж., з'яўляюцца амулеты-падвескі з іклаў сабакі і мядзведзя (познанеалітычнае паселішча *Камень* у Пінскім р-не). На паселішчах Крывінскага тарфяніку (эпохі неаліту і бронзы) знойдзены выразаныя з зуба жывёлы фігуркі чаплі, зробленыя з рога скульптурныя выявы лася і змяі, а таксама прасвідраваныя зубы ваўка, мядзведзя, бабра, лася. У могільніках плямён культуры шарападобных амфар побач з рэшткамі людзей выяўлены шкілеты свойскіх жывёл (быкоў, свіней, авечак, коней). На Пд Беларусі на гарадзішчах мілаградскай культуры ранняга жал. веку трапляецца шмат гліняных фігурак коней (найб. на гарадзішчы *Гарошкаў* Рэчыцкага р-на), радзей — буйной рагатай жывёлы і сабак. Вядомы ахвярныя пахаванні сабак, баброў, свіней, а ў адным пахаванні сабакі выяўлена разбітая пасудзіна. На помніках мілаградскай і зарубінецкай культур выяўлены амулеты-падвескі з прасвідраваных зубоў мядзведзя, бабра, ікла ваўка, у могільніках Чаплін і Атвержычы — асобныя косці і зубы свойскіх і дзікіх жывёл. У насельніцтва культур штрыхаванай керамікі і днепра-дзвінскай (цэнтр і Пн Беларусі) у пашане амулеты з іклаў звяроў. У насельніцтва культуры ўсх.-літ. курганоў былі пашыраны пахаванні нябожчыкаў разам з конямі. У слав. курганах 2-й пал. 1-га тысячагоддзя н. э. знаходзяць чарапы свойскіх жывёл, косці свіней і птушак, амулеты-падвескі з іклаў і зубоў жывёл. Нашы продкі ўшаноўвалі бога жывёлагадоўлі Вялеса тым, што выраблялі круглыя металічныя падвескі з выявай галавы быка. У 10—13 ст. былі пашыраны зааморфныя бранзалеты. У радзіміцкіх курганах знаходзяць амулеты з зубоў лісы, выявы каня на донцы пасудзіны. Пры раскоп ах *Верхаўлянскага свяцілішча* на кам нной вымастцы, дзе знаходзіўся «вогненны ахвярнік», выяўлены косці свінні. Сляды К.ж. захаваліся і ў раннефеадальных гарадах: шматлікія падвескі-амулеты з зубоў і іклаў жывёл, падвескі ў выглядзе «конікаў», манетападобныя падвескі з выявай галавы быка і інш. У духоўнай культуры беларусаў з глыбокай старажытнасці і амаль да нашага часу захаваўся звычай ушанавання вужоў. У старажытнасці многія жыхары гарадоў і вёсак насілі амулеты-змеевікі, на адным баку якіх была хрысціянская сімволіка, на другім — змяінае гняздо і кругавы надпіс з заклінаннем ад няшчасцяў і хвароб.



Ланцэтападобны наканечнік кап'я 10 ст. з гарадзішча **Кульбачына.**

Сляды К.ж. захаваліся ў назвах гарадзішчаў (Змяёўка, Змеева гара, Турава гара, Валова гара) і камянёў (Змееў камень, які, верагодна, быў месцам пакланення хтанічнаму боству). Не выключана, што аналагічнае паходжанне маюць *Барысавы камяні.* Яшчэ А. Афанасьеў звярнуў увагу на падабенства формулы надпісаў на амулетах-змеевіках і на *Рагвалодавым камені.* На некаторых камянях-следавіках ёсць прыродныя ці штучныя паглыбленні, якія нагадваюць сляды лася, аленя, мядзведзя і інш. жывёл. Такія камяні ўшаноўваліся. Лічылася, што вада з гэтых паглыбленняў дапамагае пры розных захворваннях. У пэўнай меры з культу каня і свяшчэннага вершніка вынікае паходжанне герба «Пагоня». Даволі шырока К.ж. адлюстраваны і ў фальклорна-этнаграфічным матэрыяле. Так, на тэр. Расонскага р-на ў 19 ст. запісана легенда пра кн. Боя і яго сабак Стаўраў і Гаўраў, пасля смерці якіх ён загадаў ушаноўваць іх памяць у пэўныя дні. У выніку гэтага ў некаторых мясцінах Беларусі да пач. 20 ст. святкаваліся Стаўроўскія Дзяды. У Барысаўскім і інш. паветах спраўлялася свята «камаедзіцы», звязанае з культам мядзведзя. Існавалі шматлікія павер'і, звязаныя з бусламі, дзятламі, жабамі, змеямі, пеўнямі і інш. жывымі істотамі. Для беларусаў характэрнымі з'яўляюцца легенды пра пярэваратняў-ваўкалакаў, якія нібыта могуцьператварацца на пэўны час з людзей у ваўкоў. Падобную легенду пра племя *неўраў,* якое некаторыя археалагі атаясамліваюць з *мілаградскай культурай,* запісаў яшчэ ў 5 ст. да н. э. Герадот.

*Літ.:* 831, 1014, 1015. *Э. М. Зайкоўскі.*

**КУЛЬТАВЫЯ ЯЗЫЧНІЦКІЯ ПОМНІКІ,** месцы і збудаванні, дзе пакланяліся язычніцкім багам, духам і інш. сакральным істотам і стыхіям. Многія рытуальныя дзеянні амаль не патрабавалі рэквізіту і таму не пакінулі археал. слядоў. Даныя этнаграфіі і фальклору дазваляюць меркаваць, што разнастайныя звароты да сіл прыроды, духаў дабра і зла, заклінанні маглі адбывацца ў жытлах, на плошчах паселішчаў, каля крыніц, на лугах, берагах рэк і азёр, на ўскраі поля, каля свяшчэнных дрэў (напр., дубоў). Язычніцкія святы (напр., Купалле) часта адзначаліся на свяшчэнных пагорках. Паводле пісьмовых звестак, даных археалогіі і этнаграфіі зафіксавана пакланенне *крыніцам культавым,* гаям, асобным дрэвам, а таксама *ўзгоркам культавым.* На тэр. Беларусі быў шырока распаўсюджаны культ камянёў, у т. л. камянёў-следавікоў. Пад канец існавання першабытнаабшчыннага ладу ўзніклі капішчы. У канцы 1-га тысячагоддзя н. э. існавалі гарадзішчы-свяцілішчы. У пісьмовых крыніцах паведамляецца пра «храмы ідальскія», «кумірні», «трэбішчы» (ахвяр-

нікі), «бажніцы». Пасля прыняцця хрысціянства значная частка культавых язычніцкіх помнікаў скарыстоўвалася ў час хрысціянскіх свят і набыла функцыі *прошчаў*.

*Літ.:* 1014, 1015. *Э. М. Зайкоўскі.*

**КУЛЬТУ́РА АРХЕАЛАГІ́ЧНАЯ,** гл. *Археалагічная культура.*

**КУЛЬТУ́РА ТЫ́ПУ ВЕ́РХНЯГА ПЛАСТА́ БА́НЦАРАЎШЧЫНЫ,** гл. *Банцараўская культура.*

**КУЛЬТУ́РНА-АРХЕАЛАГІ́ЧНАЯ АГУ́ЛЬНАСЦЬ,** гл. *Археалагічная культура.*

**КУЛЬТУ́РНЫ ПЛАСТ,** прынятая ў археалогіі і геалогіі назва пласта зямлі, які ўтварыўся ў выніку жыцця і дзейнасці чалавека. Мае сваю кансістэнцыю (гумус, вуголле, попел, вапну, пясок, гліну, трэскі, буд. друз і інш.), структуру (шчыльную або рыхлую), спецыфічны колер (чорны, карычневы, шэры і інш.), часам спецыфічны пах (двухвокісу вугляроду). У К.п. захоўваюцца рэшткі стараж. жытлаў, гасп. пабудоў, помнікаў манументальнага дойлідства (храмы, палацы), прадметы матэрыяльнай культуры (прылады працы, зброя, упрыгожанні і інш.), кухонныя адходы (косці дзікіх і свойскіх жывёл, птушак, рыб, абпаленае збожжа, лушпіны арэхаў, яек, костачкі пладоў і інш.). На фарміраванне К.п. ўплывае інтэнсіўнасць жыцця і род дзейнасці людзей, ступень канцэнтрацыі жыхароў на адпаведнай плошчы ў той ці іншы час, працягласць пражывання на помніку, а таксама знешнія абставіны (стыхійныя бедствы, варожыя навалы і інш.). Так, таўшчыня К.п. ў гарадах каля храмаў і на гандл. плошчах меншая, чым на месцы сядзіб і майстэрняў, на гарадзішчах і дзядзінцах большая, чым на селішчах і пасадах.

На палеалітычных помніках (*Бердыж, Падлужжа, Юравічы* і інш.) К.п. мае таўшч. да 0,6—0,7 м, чырванаватага або зеленавата-шэрага колеру, утрымлівае рэшткі жытлаў, крамянёвыя прылады працы, косці мамантa і інш. буйных жывёл, але ён, як правіла, перакрыты пластом баласту таўшч. 3—4 м. К. п. эпохі мезаліту светла-шэры, таўшч. 0,2—0,4 м, з невял. колькасцю знаходак, пераважна крамянёвымі вырабамі. Адметнай рысай К.п. эпохі неаліту з'яўляецца наяўнасць у ім рэштках керамікі, а таксама насычанасць знаходкамі. На помніках паўн. Беларусі (*Асавец, Галоўск* і інш.) К.п. часам дасягае 1—1,2 м, перакрыты пластом торфу. К.п. бронзавага веку ўтрымлівае кераміку, вырабы з крэменю, каменныя сякеры, вельмі рэдка бронзавыя рэчы, на помніках у Бел. Панямонні, на Пн і Пд Беларусі мае таўшч. да 0,4—1 м. К.п. жалезнага веку шэрага або чорнага колеру, таўшч. да 1—2 м, на асобных помніках знойдзены рэшткі жытлаў у выглядзе абвугленага дрэва, агнішчаў, грубаляпнога посуду, вырабы з жалеза, косці, каменю, каляровых металаў і інш. Селішчы гэтага перыяду маюць К.п. невялікай таўшчыні, шэрага колеру, аднароднай структуры, на асобных помніках таўшч. больш за 1 м. К.п. селішчаў ранняга сярэднявечча таўшч. 0,2—0,4 м, светла-шэрага колеру, утрымлівае кераміку, радзей рэчы з жалеза, шкла, каменю, каляровых металаў і інш. К.п. у гарадах Беларусі складаў: у Гродне 8,2—10,2 м, Віцебску 5,7—8, Мінску 5—6,4, Полацку 4,3—5,5, Брэсце 5,2, Пінску 4,4, Слуцку 3,6—4,2, Тураве 2,6—2,8 м і інш. К.п., які ўтвараўся ў сярэдневяковых гарадах, з цягам часу ствараў для жыхароў нязручнасці, таму рабіліся захады па паляпшэнні камунальнай гаспадаркі: абнаўляліся насцілы вулічных маставых і дваровых вымасткаў, пракладаліся вадасцёкі і інш. Іх рэшткі знойдзены пры раскопках Полацка, Мінска, Брэста, Віцебска і інш. К.п. некаторых помнікаў насычаны вільгаццю і таму добра захоўвае рэчы арганічнага паходжання (паселішчы Асавец, Галоўск, г. Брэст, Пінск, Слонім, Гродна, Слуцк, Давыд-Гарадок, Полацк, Мінск, Верхні замак Віцебска і інш.). У ім добра захоўваюцца рэчы з дрэва, бяросты, скуры, косці і інш., а таксама рэшткі драўляных пабудоў, якія даюць магчымасць рэканструяваць планіроўку і забудову стараж. гарадоў (гл. *Археалагічны музей «Бярэсце»*). Канцэнтрацыя ў К.п. рэштак сыравіны і адходаў вытворчасці сведчыць аб існаванні тут майстэрні рамесніка. Праслойкі пяску і глею, якія не маюць слядоў дзейнасці чалавека і ўтварыліся ў выніку веснавых і дажджавых паводак, а таксама пласты пажарышчаў, зафіксаваныя ў пісьмовых крыніцах, з'яўляюцца добрымі дыферэнцыятарамі ў раздзяленні розных па часе адкладанняў культурных напластаванняў.

Датаванне К.п. ажыццяўляецца па знаходках, якія ўжо датаваны на раней даследаваных помніках,— манетах, рэштках мураваных збудаванняў (гл. таксама *Археалагічнае датаванне*). Глеба, на якой залягае К. п. і якая ўжо не мае слядоў жыццёвай дзейнасці чалавека, у археалогіі наз. мацерыком. Як правіла, гэта светлы пясок або шчыльная марэнная гліна. К.п., які залягае непасрэдна перад мацерыком, наз. перадмацерыковым, гэта найстаражытнейшы пласт у агульнай стратыграфіі помніка. Калі помнік шматпластавы, даследчыкі вылучаюць т. зв. стратыграфічныя пласты. К.п. адносіцца да помнікаў і ахоўваецца дзяржавай, распрацоўка яго павінна весціся ў адпаведнасці з заканадаўствам аб ахове помнікаў і існуючай навук. методыкай раскопак (гл. *Раскопкі археалагічныя*). Раскапаны К.п. знікае назаўсёды і ў адрозненне ад помнікаў архітэктуры не паддаецца аднаўленню. Інфармацыя пра К.п. мае вял. значэнне пры рэканструкцыі і забудове гіст. частак гарадоў. Неаднароднасць саставу К.п., прысутнасць у ім арганічных уключэнняў уплываюць на яго фізіка-механічныя якасці, што не дазваляе ўзводзіць на ім капітальных будынкаў, а хімічныя мікраэлементы, якія ўтрымлівае К.п., шкодна ўплываюць на металічныя канструкцыі падземных камунікацый. Тэрмін «пласт» упершыню ўжыў французскі вучоны Г. Мартылье ў сярэдзіне 19 ст. У Расіі навук. тлумачэнне паходжання К.п. ў дачыненні да Ноўгарада і Пскова даў у пач. 19 ст. Я. А. Балхавіцінаў. Бел. археолаг А. М. Семянтоўскі ў сярэдзіне 19 ст. пісаў: «Зямля, што добрая маці, прыняўшы ў нетры свае ўсё, ад яе ж рукою чалавека ўзятае... у немачы захоўвае яго для далёкіх нашчадкаў. Тады заступ археолага раскрые нетры і прымусіць іх расказаць аб мінулым».

*Літ.:* 2, 3, 4, 61, 384, 847, 848.

*Л. У. Калядзінскі.*

**КУЛЬЧЫ́НСКІ** Ігнат [1707, каля Гродна — 1747 (?)], беларускі археолаг, краязнавец, царкоўны дзеяч, архімандрыт гродзенскі (з 1735). У 1727—35 быў у Рыме, дзе, магчыма, атрымаў адукацыю, вывучаў гісторыю царквы, пісаў і выдаваў багаслоўскія кнігі. На Беларусі даследаваў старажытнасці Гродна, в. Жыровічы (Слонімскі р-н). У выніку вывучэння архіва *Гродзенскай Барысаглебскай царквы* (Каложскай царквы) першым датаваў яе збудаванне 12 ст., выкарыстаўшы для гэтага (упершыню ў археал. практыцы) цэглу-плінфу. Напісаў «хроніку ігуменаў» Гродзенскага Каложскага манастыра паводле архіва, які вёўся з 1480. Вывучаў *Гродзенскі Стары замак.* Зрабіў апісанне абразоў кафедральнай царквы ў Полацку і крыжа Ефрасінні Полацкай.

*Літ.:* 85, 206. *Г. А. Каханоўскі.*

**КУМГА́Н** (цюрк.), пасудзіна ў форме жбана з вузкім горлам і доўгім носікам, які меў накрыўку і ручку. Выкарыстоўваўся для захоўвання віна, воцату і інш. Найб. пашыраны на ўсх. землях. Упамінаецца ў рус. пісьмовых крыніцах 16—17 ст. У вял. колькасці знойдзены ў пластах 15—16 ст. пры раскопках Масквы, 16—17 ст. пры раскопках Смаленска. На Беларусі ў час раскопак Мінскага старажытнага пасада знойдзены зялёнапаліваны носік К., пры раскопках Віцебска — носік чорнаглянцаванага К. Для Беларусі К. з'яўляецца запазычаннем або завезены ў выніку гандл. зносін.

*Літ.:* 978, 1093, 1389.

**КУНА́,** адна з асн. грашовых і лікавых адзінак стараж.-рус. «кунпай» грашовай сістэмы. Назва К. звязана з футрам куніцы, якое ў ранняе сярэднявечча было таварам-грашамі. К.— стараж.-рус. назва куфіцкіх *дырхемаў, міліярысіяў* і *срэбранікаў*. У 11 ст. К. адпавядала прыблізна 2 г серабра, роўная 2 *разанам* або 4—6 *веверыцам*, складала $^1/_{25}$ *грыўні кун* або $^4/_5$ *нагаты*. У 12—13 ст. роўная разане, 2—3 веверыцам, складала $^1/_{50}$ грыўні кун або $^2/_5$ нагаты. У множ-

ным ліку К.— зборнае паняцце «грошы», якое да канца 13 ст. выцесніла сінанімічны яму тэрмін «срэбра». У стараж.-рус. лексіцы «срэбралюбства» і «куналюбства» ўжываліся ідэнтычна.

*Літ.:* 1640. *В. Н. Рабцэвіч.*

**КУНДА КУЛЬТУ́РА,** археал. культура плямён, якія ў эпоху *мезаліту* жылі на У Прыбалтыкі і Пн еўрап. часткі СССР, у т. л. на Пн Беларусі. Назва ад паселішча каля г. Кунда ў Эстоніі, адкрытага ў 1870. Вылучыў эстонскі археолаг Р. Індрэк. Паходжанне культуры звязваюць з постсвідэрскім насельніцтвам (гл. *Свідэрская культура*), на якое значна ўплывалі носьбіты культуры маглемазэ і некаторых інш. культур мезаліту. На Беларусі найб. даследаваны помнікі *Замошша* (Верхнядзвінскі р-н) і *Крумплева* (Полацкі р-н). Асн. заняткі насельніцтва — паляванне і рыбалоўства. Яно вырабляла крамянёвыя наканечнікі стрэл (постсвідэрскія, сіметрычныя, з бакавой выемкай), скрабкі (канцавыя, авальныя, выраблены з укарочаных загатовак), разцы на зломе загатовак, разнастайныя ўкладышавыя прылады; нуклеусы пераважна канічнай формы; каменныя сякеры, долаты і цёслы; касцяныя гладкія коп'і, астрыі з 1- і 2-бакавымі пазамі, іголка- і конусападобныя наканечнікі стрэл, гарпуны (з дзюбападобнымі і косымі зубцамі, з зубцамі ў аснове), састаўныя рыбалоўныя кручкі, кінжалы з локцевых касцей лася і інш. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў ямах (глыб. да 1,1 м) у выцягнутым становішчы, арыентацыя розная. Пахаванні адзіночныя, парныя, калектыўныя (да 5 чалавек), у 1 або 2 ярусы; нябожчыкаў часта пасыпалі вохрай. У магілах трапляюцца крамянёвыя, каменныя, касцяныя прылады працы, падвескі з іклаў звяроў, касцяныя выявы галавы лася і інш. Генезіс кундскага насельніцтва звязаны з *нарвенскай культурай.*

*Літ.:* 562, 765. *У. П. Ксяндзоў.*

**КУРА́ДАВА,** група селішчаў каля в. Курадава Пінскага р-на.

С е л і ш ч а-1. За 800 м на ПдЗ ад вёскі, на надпоймавай тэрасе левага берага р. Прыпяць. Пл. 7—8 га. У 1982 адкрыла і даследавала 200 м² В. С. Вяргей. У матэрыялах, сабраных на паверхні, рэчы мезаліту, бронзавага веку і ранняга сярэднявечча. Культурны пласт таўшч. 0,4—1 м змяшчае розначасовыя, стратыграфічна непадзельныя рэшткі матэрыяльнай культуры. У паўд. частцы раскопу выяўлена скопішча невял. кавалкаў балотнай руды (таўшч. слою 0,1—0,2 м, пл. 8,5—3,5 м), у паўд.-ўсх. частцы — гасп. яма, у мацерыку 15 попельнавугальных плям. Знойдзена больш за 1000 абломкаў ляпнога посуду, які адносіцца да культур помнікаў тыпу *Карчак* і *Лука-Райкавецкая,* невял. колькасць керамікі *мілаградскай культуры* і *зарубінецкай культуры,* раструшчаны гаршчок са шнуравым арнаментам эпохі бронзы.

Сярод знаходак вырабы з крэменю (нажы, пласціны, скрабок, лістападобны наканечнік стралы, праколкі, разцы і інш.), бронзы [званочак, маленькі рыбалоўны кручок, арнаментаваная трапецападобная падвеска, маленькая фібула з суцэльным прыёмнікам і дзвюма нарэзкамі на спінцы (мае аналагі ў старажытнасцях *пшэворскай культуры*), бразготка з прарэзаю], з жалеза (фрагменты нажоў, брытвы, сярпа, кіепадобных шпілек), разнастайныя пацеркі з глухога напаўпразрыстага ці залачонага шкла. На паверхні пляцоўкі зрэдку сустракаюцца перапаленыя чалавечыя косці.



Да арт. **Курган.** Курганны могільнік каля в. Высачаны Лёзненскага р-на.




Фібула (1), званочак (2), кольца (14), фрагменты бронзавых вырабаў (7, 8), посахападобная шпілька (4), фрагменты дзяржання сярпа (3), нажа (6), вырабаў з жалезнага дроту (5, 9), шыла (13), шкляныя пацеркі (10—12, 15) з паселішча **Курадава.**

С е л і ш ч а-2. За 500 м на З ад селішча-1, на ўзвышшы надпоймавай тэрасы левага берага р. Прыпяць. На паверхні сабраны фрагменты ляпнога посуду культур мілаградскай, зарубінецкай, тыпу Карчак і Лука-Райкавецкая, а таксама крамянёвыя вырабы і загатоўкі (пласціны, наканечнікі стрэл трохвугольнай формы, адшчэпы, нуклеусы).

С е л і ш ч а-3. За 1,5—2 км на З ад селішча-1, на левым беразе р. Прыпяць, на пясчаным узвышшы сярод поплава. Пл. каля 10 га. На паверхні сабраны фрагменты ляпнога посуду культур зарубінецкай, тыпу Карчак і Лука-Райкавецкая.

*Літ.:* 193. *В. С. Вяргей.*

**КУРГА́Н,** насып з зямлі над стараж. пахаваннем; часам засыпанае зямлёй пахавальнае збудаванне. Звычай хаваць нябожчыкаў у К. з'явіўся на мяжы неаліту і энеаліту (4—3-е тысячагоддзі да н. э.; гл. ў арт. *Пахавальны абрад*). Паступова пашырыўся сярод усіх народаў свету, за выключэннем аўстралійскіх. З ростам маёмаснай няроўнасці становіцца ўсё больш відавочнай розніца паміж пахаваннямі. Асабліва багатым пахавальным інвентаром і складанасцю збудавання вылучаюцца скіфскія К. стэпавага Прычарнамор'я (2-я пал. 4-га тысячагоддзя да н. э.). Яны былі выш. 7—18 м, дыям. больш за 50 м, мелі да 3 камер з асобнымі ўваходамі. Разам з нябожчыкамі-мужчынамі ў іх хавалі іх жонак, рабоў, коней і разнастайныя каштоўныя рэчы. Найб. вядомасць набылі скіфскія К., у якіх знойдзены высокамастацкія вырабы з золата і серабра (гл. ў арт. *Скіфы, Скіфская культура*).

На Беларусі К. ўзніклі на мяжы 3-га і 2-га тысячагоддзяў да н. э. Вядомы пад назвамі курганы, капцы, валатоўкі, сопкі, французскія альбо шведскія магілы. К., выяўленыя на Беларусі, належаць усх.-слав. плямёнам 2-й пал. 1-га тысячагоддзя н. э. і часоў Стараж. Русі, славяна-балцкаму насель-

ніцтву, балтам (гл. *Каменныя курганы*). Вядомы асобныя К. і курганныя могільнікі. Каля некаторых сучасных населеных пунктаў ёсць па некалькі курганных груп з колькасцю ад 2 да 200 К. у групе (напр., *Дулебы* Бярэзінскага р-на), альбо па адной курганнай групе (напр., *Таўкачэвічы 1-я* Уздзенскага р-на). Зрэдку ў К. сустракаюцца драўляныя зрубы з накатам і без яго (Гродзенская і Мінская вобл.), а таксама 4 драўляныя слупы (Віцебскай вобл.). К. адрозніваюцца формай, памерамі, унутранай будовай, палажэннем нябожчыка, абрадам пахавання, характарам пахавальнага інвентару. Найбольш стараж. К. адносяцца да *сярэднедняпроўскай культуры*. Яны круглыя ў плане, выш. да 3, дыям. да 30 м. Нябожчыкаў у такіх К. хавалі часцей у авальных падкурганных ямах, радзей — на гарызонце. Існуе ад аднаго да чатырох пахаванняў пад адным насыпам. Пахавальны інвентар: керамічны посуд (арнаментаваны адбіткамі шнура, лінейнага штампа, насечкамі, паглыбленнямі), крамянёвыя і бронзавыя прылады працы, упрыгожанні. Найб. пашыранымі з'яўляюцца круглыя, доўгія і падоўжаныя ў плане К. канца 1-га — пач. 2-га тысячагоддзя н. э. У канцы 1-га тысячагоддзя н. э. пахавальны абрад — *трупаспаленне*, у 11—13 ст.— *трупапалажэнне*. Доўгія і падоўжаныя К. (даўж. ад 10 да 110 м, выш. 1,5—2 м, шыр. 8—10 м) сустракаюцца на Пн Беларусі і адносяцца да перыяду распаду радавых адносін. У такіх К. нябожчыкаў хавалі па абраду трупаспалення. Даўжыня іх насыпу залежыць ад колькасці пахаваных членаў роду. Асобныя доўгія К. рабілі ў адзін прыём. Разам з рэшткамі пахаванняў знаходзяць рэчы нябожчыкаў. Паўсферычныя курганы (выш. 0,2—2 м, дыям. 2,2—18 м, зрэдку выш. 3—5 м, дыям. 20—25 м) звычайна размешчаны за 0,5—1,5 км ад стараж. паселішчаў, колькасць К. ад 1 да 200 у групе. Часцей у кожным К. пахаваны адзін нябожчык, радзей 2—3, зрэдку больш. У К. часцей знаходзяць рэчы разнастайнага прызначэння з розных матэрыялаў: керамічны посуд з лінейным і хвалістым арнаментам, шыферныя прысліцы, каменныя брускі, жал. сякеры, шпоры, сярпы, металічныя ручкі і абручы ад драўляных вядзёр і інш. Знаходзіцца шмат жаночых упрыгожанняў: металічныя і шкляныя пацеркі розных колераў, скроневыя кольцы, пласціністыя і бронзавыя бранзалеты, пярсцёнкі і інш. Сустракаюцца насыпы без пахаванняў, насыпаныя на ўшанаванне памяці памерлых — *кенатафы*. У некаторых К. выяўлены рэшткі драўляных трун. У 14 ст. курганныя пахаванні заменены грунтавымі пахаваннямі.

*Літ.:* 93, 265, 266, 346, 587,629, 856, 1016, 1052, 1112, 1237.

*Т. М. Каробушкіна.*

**КУРГА́ННАЯ КУЛЬТУ́РА,** к у р г а н н ы х  п а х а в а н н я ў  к у л ь т у р а, археал. культура, пашыраная ў Цэнтр. Еўропе ў сярэдні перыяд бронзавага веку (1450—1250 да н. э.). Назву атрымала ад рытуалу насыпання курганоў спачатку над трупапалажэннямі, потым над трупаспаленнямі.

Распаўсюджана на тэр. ад р. Рэйн да Прыкарпацця. У складзе К.к. вылучаюць больш дробныя культуры — сярэднееўрапейскую, камароўскую, *тшцінецкую культуру* і інш. Іх аб'ядноўваюць падобныя формы посуду (амфары, міскі, чашы, кубкі, глячкі) са штампаваным і наразным арнаментам. Насельніцтва шырока выкарыстоўвала бронзавыя вырабы — злiткі, брускі, шыйныя абручы, разнастайныя шпількі з галоўкамі, падвескі, круглаватыя брытвы, шылы, сякеры, наканечнікі стрэл і коп'яў, сярпы, нажы, кінжалы, мячы, часам з літымі дзяржаннямі. Невял. паселішчы і курганныя могільнікі, наяўнасць касцей свойскіх жывёл сведчаць пра асн. занятак плямён — жывёлагадоўлю, а таксама пра адносна рухомы спосаб жыцця. У адрозненне ад К.к. ў стэпавай зоне Еўропы ўтварыліся іншыя культ.-гіст. агульнасці: катакомбавая, якая распаўсюдзілася на тэр. ад Днястра да Волгі, пазней — зрубная, што дасягнула Урала. Для культур стэпавай зоны таксама характэрна насыпанне курганоў. Аднак пахаванні пад курганамі рабілі па інш. абраду, адрозніваўся і пахавальны інвентар.

*Літ.:* 467, 797. *У. Ф. Ісаенка.*



Энкалпіён, спражка з інкрустацыяй, паясное кольца, паясны кручок з могільніка **Курганне** Жлобінскага р-на.

**КУРГА́ННЕ,** гарадзішча ранняга жал. веку каля в. Курганне Горацкага р-на. За 500 м на З ад гарадзішча Нікадзімава. Пляцоўка чатырохвугольная, памер 43×22 м, выш. над ярам 7—11 м. З паўн. боку прасочваецца вал выш. 1,5 м, разбураны ў цэнтр. частцы. Выявіў у 1970 В. Ф. Капыцін, абследавалі ў 1982 Ш. І. Бекцінееў, у 1985—86 А. А. Седзін, які ў 1986 заклаў 2 шурфы, у 1988 раскапаў 36 м². У зах. частцы раскопу і ў адным з шурфаў выяўлены культурны пласт, у якім знойдзены ляпны посуд з адагнутымі вонкі венчыкамі. У мацерыку прасочваюцца ямы ад слупоў і калоў.

*А. А. Седзін.*

**КУРГА́ННЕ,** група курганных могільнікаў каля в. Курганне Жлобінскага р-на.

М о г і л ь н і к-1. Паміж вёскай і р. Дабасна (прыток Дняпра). 55 курганоў выш. 0,5—2,5 м, дыям. 10—12 м. Выявіў і даследаваў 28 насыпаў у 1972—76 У. У. Багамольнікаў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на спіне галавой на З (у адным выпадку галавой на У), сустракаецца трупаспаленне. Адзін курган пусты.

Знойдзены ганчарныя гаршкі, пярсцёнкападобныя і сяміпрамянёвыя скроневыя кольцы, пацеркі (дробны бісер, шкляныя пазалочаныя цыліндрычныя і бочачкападобныя, сердалікавыя біпірамідальныя, бурштынавыя прызматычныя, металічныя), авальнае і абаранкападобныя крэсівы, лірападобныя спражкі, каса, серп, прасліцы. Асабліва багаты курган з двайным пахаваннем, дзе знойдзены крыж-складзень, паясны кручок з выявамі конскіх галовак, бронзавая спражка і паясное кольца з інкруставаным раслінным і геам. арнаментам, крэсівы, жал. паясныя кольцы і інш. Могільнік належаў радзімічам, датуецца 11—1-й трэццю 12 ст.

М о г і л ь н і к-2. Побач з могільнікам-1, на З ад яго. 35 курганоў выш. 1—2 м, дыям. 10—12 м. Выявіў і даследаваў 7 насыпаў у 1972 У. У. Багамольнікаў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце і ў яме.

Знойдзены нож, ганчарная кераміка, шкляныя пазалочаныя і сердалікавыя біпірамідальныя пацеркі, вял. яйцападобныя буйназярністыя пацеркі. Належаў дрыгавічам, датуецца 11—12 ст.

М о г і л ь н і к-3. За 1 км ад могільніка-2. 3 курганы выш. 2 м, дыям. 12—13 м. Выявіў і абследаваў у 1972 У. У. Багамольнікаў. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* 139, 141, 142, 146.

*У. У. Багамольнікаў.*

**КУРГА́ННЕ,** курганны могільнік *радзімічаў* каля в. Курганне Рагачоўскага р-на. За 500—600 м на У ад вёскі. 26 насыпаў выш. 1,6—2,3 м, дыям. 5—7 м. Вядомы з 1873. Даследаваў у 1890 У. І. Зенчанка (раскапаў 3 насыпы), абследавалі ў 1930 А. М. Ляўданскі, у 1976 А. Р. Мітрафанаў. Пахавальны абрад — трупаспаленне. Знойдзены пласціністыя і вітыя бранзалеты, сяміпрамянёвыя скроневыя кольцы, лунніцы, пярсцёнкі, бразготкі, абломкі шыйнай грыўні.

*Літ.:* 718.

**КУРГА́ННЕ**, курганны могільнік каля в. Курганне Смалявіцкага р-на. На ўскраі вёскі, ва ўрочышчы Курганне або Клёнік, каля ручая Бурлацкі Брод (упадае ў р. Уша). Налічваў 40 кургаиоў, не захаваліся. У 1886—87 У. З. Завітневіч даследаваў 4 курганы дыям. 7—11 м, выш. 0,8—2 м. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на мацерыку галавой на З. Адно пахаванне ў драўлянай труне, пры ім знойдзены жал. нож. Іншыя пахаванні без інвентару.

**КУРЦІ́НА** (франц. courtine), частка крапаснога вала паміж 2 бастыёнамі. На Беларусі вядомы ў замкавым і замкава-палацавым будаўніцтве сярэдзіны 16—18 ст. з бастыённай абарончай сістэмай. К. магла мець каменную выбрукоўку ці цагляна-каменную абмуроўку (замкі староітальянскага тыпу ў Караліне пад Пінскам, Заслаўі, Нясвіжы) або земляны задзернаваны вал (замкі галандскай фартыфікацыйнай школы ў Быхаве, Слуцку, Высокім Камянецкага р-на і інш.). Унутры К. нярэдка рабілі падземныя мураваныя скляпеністыя хады для скрытага перамяшчэння воінаў з бастыёна на бастыён (замкі ў Высокім, Караліне) або патаемнага вываду гарнізона за межы замка (*Ляхавіцкі замак*).

**КУРЭ́НЦЫЯ КАНСТЫТУЦЫ́ЙНАЯ** (ад лац. currere круціцца, абарачаецца), літоўская, польская, сеймавая, скарбовая, сістэма грашовага ліку, якая засноўвалася на афіцыйных дзярж. пастановах (з 1717), накіраваных на падтрымку ў Рэчы Паспалітай адносна стабільных курсаў абарачэння разнародных манет. У пісьмовых крыніцах упамінаецца ў 1724—61. Згодна К.к. паўнавартасныя манетныя *наміналы* пераводзіліся на парытэтныя ім сумы ў медных шэлегах: злоты чырвоны (*дукат*) = 18 злотым у шэлежнай манеце (гл. *Бараціика*), талер = 8 злотым, *тымф* = 38 *грошам, шастак* = 12 грошам 2 шэлегам.

**КУРЭ́НЦЫЯ РУ́СКАЯ**, беларуская, тутэйшая, сістэма грашовага ліку на тэр. Беларусі ў 18 ст., якая адлюстроўвала курсы абарачэння паўнавартасных манет на мясц. рынках у адрозненне ад афіцыйна вызначаных (гл. *Курэнцыя канстытуцыйная*). У пісьмовых крыніцах упамінаецца ў 1726—62. Згодна К. р. паўнавартасныя *наміналы* манет пераводзіліся на парытэтныя ім сумы ў медных *шэлегах*: злоты чырвоны (*дукат*) = ад 20 *злотых* 15 *грошаў* да 22 злотых 15 грошаў у шэлежнай манеце, талер = 9 злотым 15 грошам, *тымф* = 1 злотаму 15 грошам, *шастак* = 15 грошам.

*Літ.:* 1544. *В. С. Касмылёў.*

**КУ́СЕЎШЧЫНА**, стаянка эпохі позняга мезаліту (7—6-е тысячагоддзі да н. э.) каля в. Кусеўшчына Мядзельскага р-на. За 400 м на ПнЗ ад вёскі, на марэнным паўвостраве паўд.-ўсх. краю тарфяніка. Выявіў у 1978 Ч. А. Каспарэўскі, даследаваў у 1980, 1987, 1988 М. М. Чарняўскі. Пл. 100×30 м, выш. 0,5 м. Культурны пласт слаба выражаны, таўшч. 0,3—0,4 м. Выяўлены невялікія, крыху заглыбленыя, агнішчы-кастрышчы, крамянёвыя аднапляцовачныя нуклеусы, ланцэтападобныя вастры, рэтушаваныя пласцінкі і адшчэпы, разнастайныя скрабкі і разцы.



Ю. У. **Кухарэнка.**

**КУ́СІЧЫ**, селішча *паморскай культуры* каля былой в. Кусічы Камянецкага р-на. Гл. *Агароднікі.*

**КУСЦІ́НСКІ** Міхаіл Францавіч [16(28).9.1829, маёнтак Завідавічы, Лепельскі р-н — 1905], беларускі археолаг. Чл. Маскоўскага археал. т-ва (з 1874, чл.-кар. з 1867). Скончыў Віленскі дваранскі ін-т, Пецярбургскі ун-т. У 1850—90 вывучаў археал. помнікі Віцебшчыны, склаў яе археал. карту. Праз свайго сакурсніка па ун-ту А. В. Уварава падтрымліваў сувязь з археолагамі Пецярбурга і Масквы. Для Пецярбургскай акадэміі мастацтваў зрабіў табліцу кургаиоў і гарадзішчаў па кожным павеце Віцебскай губ. Упершыню на Беларусі пачаў фатаграфаваць працэс раскопак, складаць фотатэку помнікаў старажытнасцей Віцебскай і суседніх губ. Першым у 1874 даследаваў Гнёздаўскія курганныя могільнікі пад Смаленскам, тэрыторыю ў вярхоўях Волгі, Зах. Дзвіны, Дняпра. Вывучаў *Барысавы камяні.* Стварыў у Завідавічах музей, які прыцягваў увагу многіх археолагаў. У аддзеле рукапісаў Цэнтр. бібліятэкі АН Літвы захоўваюцца яго «Успаміны».

*Тв.:* [Доклад о раскопках курганов возле Черцов б. Лепельского пов.] // Тр. Первого археол. съезда в Москве, 1869. М., 1871. Т. 1; [О раскопках в Гнездово, Поречском и Духовщинском поветах Смоленской губернии] // Древности: Тр. Московского археол. о-ва. М., 1875. Т. 6, вып. 1.

*Літ.:* 35, 513.

*Т. М. Каробушкіна, Г. А. Каханоўскі.*

**КУ́СЦІЧЫ**, курганны могільнік дрыгавічоў каля в. Кусцічы Камянецкага р-на. За 2 км на ПдЗ ад вёскі. Мясц. назва Шведскія могільнікі. Захавалася 36 насыпаў выш. 0,3—1,4 м, дыям. 2,6—10 м, размешчаных кампактна на пл. 10 га. У зах. частцы могільніка вылучаецца асобны ланцуг кургаиоў, які цягнецца з З на У. Курганы каля падножжа абкладзены валунамі. Выявіў у 1937 К. Салевіч, даследавалі ў 1960 І. В. Біруля (7 кургаиоў), у 1981—88 Т. М. Каробушкіна (17 кургаиоў).

У 11 з 24 раскапаных кургаиоў пахаванні не выяўлены, знойдзены вуглі, попел, цвікі, шпора, фрагменты керамікі. У 12 курганах пахавальны абрад — трупапалажэнне галавой на З у насыпе, на гарызонце і ў ямах на попельна-вугольнай і пясчанай падсыпцы. Пахаванні адзіночныя. У адным кургане пахаванне па абраду трупаспалення па-за межамі кургана. Рэшткі крэмацыі знаходзіліся пад курганом у авальнай яме памерам 85×80 см. Пахавальны інвентар: фрагменты керамікі, прасліца з ружовага сланцу, сярэбраныя скроневыя кольцы, фрагмент металічнага пярсцёнка, трохпацеркавае скроневае кольца, званочак з бронзы, гузік, крэсіва, нож, цвікі. Першыя пахаванні на могільніку зроблены ў канцы 10 ст., апошнія — у 12—13 ст. На рубяжы 10—11 ст. адбылася змена пахавальнага абраду (трупаспалення на трупапалажэнне).

*Літ.:* 588, 641. *Т. М. Каробушкіна.*

**КУ́ФЕЛЬ**, кухаль, кухлік, куфлік (польск. kufel), цыліндрычная пасудзіна з прамавугольнай або петлепадобнай ручкай для піцця. Выраблялі́ся з гліны, шкла, фаянсу, фарфору, волава, серабра, часам з дрэва. К. звычайна былі гладкія. Керамічныя К. часам сціпла аздаблялі рэльефным лінейным арнаментам пад венчыкам і ў прыдоннай частцы. Шырока выкарыстоўваліся з 2-й пал. 16 ст. Фрагменты паліваных (зялёная, радзей карычневая паліва на абедзвюх паверхнях) керамічных, а таксама шкляныя К. знойдзены пры раскопках у Віцебску, Крычаве, Лідзе, Магілёве, Мсціславе і інш. гарадах. Часам К. выраблялі на заказ і багата аздаблялі (напр., К. 17 ст. з раскопак Магілёўскай ратушы маюць выяву герба горада). Металічныя К. часта мелі накрыўку. Цяпер вырабляюцца шкляныя і металічныя К.

*Н. І. Здановіч, А. А. Трусаў.*

**КУХАРЭ́НКА** Юрый Уладзіміравіч (2.4.1919, в. Чапля Ляцічаўскага р-на Хмяльніцкай вобл.— 6.1. 1980), савецкі археолаг. Д-р гіст.

навук (1966). Скончыў Хабараўскі педагагічны ін-т (1943). У 1938—43 служыў на Ціхаакіянскім флоце. З 1951 працаваў у Ін-це археалогіі АН СССР. Даследаваў гісторыю і археалогію Палесся, Верхняга і Сярэдняга Падняпроўя (жал. век, славяне ранняга сярэднявечча). Даследаваў археал. помнікі, якія сталі класікай айчыннай навукі: мілаградскія курганы *Дубай*, зарубінецкія могільнікі і паселішчы *Атвержычы, Вароніна, Велямічы, Рамель, Рубель, Чаплін*, паморскія могільнікі Скорбічы (*Дружба*) і Драгічын. Эталонам славянскіх старажытнасцей 2-й пал. 1-га тысячагоддзя н. э. стала яго даследаванне гарадзішча і селішча *Хатомель*. Сабраў і сістэматызаваў звесткі пра археал. помнікі Палесся ад неаліту да сярэднявечча і паказаў, што яно з даўніх часоў заселена чалавекам. Працы К. сталі падмуркам у рэканструкцыі гісторыі насельніцтва паўд. Беларусі і паўн. Украіны ў 1-м тысячагоддзі да н. э.— 1-м тысячагоддзі н. э. Ён упершыню даў поўную характарыстыку *зарубінецкай культуры*, акрэсліў яе арэал і лакальныя асаблівасці, распрацаваў тыпалогію знаходак, храналогію помнікаў, выказаўся адносна яе генезісу. Паклаў пачатак сістэматызацыі паморскіх старажытнасцей на Беларусі па матэрыялах *Брэсцкага бескурганнага могільніка* (Брэст — Трышын), прасачыў пранікненне вельбарскіх плямён на тэр. Усх. Еўропы. Першым з сав. даследчыкаў звярнуў увагу на ляпны посуд з больш ранніх раскопак на Житоміршчыне і звязаў іх з *пражскай культурай*, што паклала пачатак вывучэнню славян 5—7 ст. н. э. на тэр. СССР.

*Тв.:* Памятники железного века на территории Полесья. М., 1961; Средневековые памятники Полесья. М., 1961; Первобытные памятники Полесья. М., 1962; Зарубинецкая культура. М., 1964; Полесье и его место в процессе этногенеза славян // Полесье: (Лингвистика. Археология. Топонимика). М., 1968; Пинские курганы // Славяне и Русь. М., 1968; Археология Польши. М., 1969; Могильник Брест — Тришин. М., 1980.

*Літ.:* 996. *В. С. Вяргей.*

**«КУХО́ННЫЯ РЭ́ШТКІ»,** косці жывёл, выкарыстаных у ежу стараж. насельніцтвам. Захаваліся ў культурных пластах археал. помнікаў. «К. р.» з'яўляюцца асн. крыніцай вывучэння значных вытворчых галін стараж. культуры: *жывёлагадоўлі* і *палявання*. Вывучэнне касцявых калекцый з археал. раскопаў пачалося адносна нядаўна — з канца 1940-х г. Першым даследчыкам «К. р.» быў археолаг В. А. Гарадцоў. Адзіная методыка даследавання рэшткаў касцей канчаткова не выпрацавана, але асн. прыёмы апрацоўкі калекцый заключаюцца ў адборы рэшткаў касцей з археал. матэрыялу, іх відавым вызначэнні, падліку колькасці касцей па асобінах і відах, вызначэнні по лаўзроставых асаблівасцей асобіны, якой належалі косці, прамеры касцей, статыстычнай апрацоўцы біаметрычных даных. Пэўную своеасаблівасць маюць косці з пахаванняў і свяцілішчаў, бо яны з'яўляюцца рэшткамі ежы ад памінальнай трызны.

*Літ.:* 137, 261, 1264, 1421.

*Н. П. Александровіч.*

**КУЦЕ́Ц,** стаянкі каменнага і бронзавага вякоў. Гл. ў арт. *Сверынава.*

**КУШНЯРЭ́ВІЧ** Алесь Мікалаевіч (н. 26.5.1958, в. Дзядзілавічы Барысаўскага р-на), бел. археолаг. Канд. гіст. навук (1991). Скончыў Мінскі пед. ін-т (1982). З 1982 у н.-д. ін-це «Белспецпраектрэстаўрацыя», з 1990 у Ін-це гісторыі АН Беларусі. Займаецца архітэктурна-археалагічным і гістарычным даследаваннем культавага дойлідства Беларусі 13—16 ст.

*Тв.:* Гісторыя вывучэння беларускага культавага дойлідства XIV—XVI стст. // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1990. № 2; Архітэктурна-археалагічнае даследаванне Мураванкаўскай царквы // Там жа. 1990. № 5; Да гісторыі культавага дойлідства Беларусі XIII ст. // Там жа. 1991. № 2; Дамініканскі кляштар у Навагрудку (разам з С. П. Адамовіч) // Там жа. 1991. № 4; Культавае дойлідства Беларусі XIV ст. // Там жа. 1991. № 5.

# Л

**ЛАБА́НЧЫК,** адна з папулярных назваў расійскай імітацыі нідэрландскага *дуката* (метрычная проба 980, лігатурная маса 3,49 г). Назва ад выявы рыцара («залабаненага» чалавека, г. зн. прафесійнага воіна) на аверсе.

Па даручэнні Пецярбургскага манетнага двара ювелір І. В. Гаст у 1768 зрабіў штэмпелі-копіі дукатаў Утрэхцкага манетнага двара. Выпушчаныя Л. прызначаліся для Архіпелагскай экспедыцыі ў Міжземнае мора ў час руска-турэцкай вайны (1768—74), пазней іх выкарыстоўвалі на выдаткі дыпламатычнага корпуса, выплаты жалавання. На *аверсе* — выява рыцара з пучком 7 стрэл у правай руцэ і мячом у левай; кругавая легенда (на лацінскай мове) у 1768—1806 — **concordia res par. cres. tra** (згодай замацоўваюцца малыя справы. Утрэхт), 1817—69 — **concordia res parvae crescunt** (згодай замацоўваюцца малыя справы). На *рэверсе* — у квадратным картушы пяцірадковая легенда (на лацінскай мове) на манетах 1768—1806 — **mo. ord. provin. foeder. belg. Ad leg. imp.** (манета ўстаноўлена правінцыямі злучанай Бельгіі згодна з законам імперыі). 1817—69 — **mo. aur. reg. Belgii. ad legem imperii** (залатая манета каралеўства Бельгія. Згодна з законам імперыі). У справаводстве Мін-ва фінансаў Расіі Л. законспіраваны пад назвай «вядомая манета», ва ўжытку называўся «залатым», «чырвонцам», «чырвоным», «арапчыкам» (з-за незвычайнага знешняга выгляду воіна на аверсе), «пучковы» (з-за пучка стрэл у руцэ воіна).

*Літ.:* 1609, 1620, 1744.

*В. Н. Рабцэвіч.*




**Лабанчык:** 1. Аляксандр I, 1817; 2. Мікалай I, 1831.



Накладка на шчыт 1 ст. да н. э.— 1 ст. н. э. з гарадзішча **Лабеншчына.**

**ЛАБЕ́НШЧЫНА,** гарадзішча *штрыхаванай керамікі культуры* каля в. Лабеншчына Мінскага р-на. За 400 м на З ад вёскі, на стрэлцы доўгага мыса левага берага ручая Крыніца (левы прыток р. Свіслач). З трох бакоў абмежавана глыбокімі ярамі, з З — поплавам ручая. Выш. стромкіх схілаў гарадзішча 12—14 м. Пляцоўка авальная, выцягнута з ПнЗ на ПдУ, памеры 68×42 м. З У умацавана 3 валамі і 2 равамі, з ПнЗ — 2 валамі і 2 равамі. Выш. валоў 0,5—0,7 м (адзін вал выш.

2,2 м). Адкрыў у 1926 А. Дз. Каваленя, у 1927 А. М. Ляўданскі заклаў траншэю памерам 1×62 м. У паўд. частцы раскопу выяўлена печ-домніца, шмат штрыхаванай керамікі, жал. сярпы, нажы, посахападобныя шпількі, шылы. У 1950—52 даследаваў 900 м² А. Р. Мітрафанаў. У выніку раскопак устаноўлена, што ў ранні перыяд існавання (4—1 ст. да н. э.) гарадзішча было слаба ўмацавана, а пляцоўка выкарыстоўвалася часткова. Выяўлены рэшткі 5 наземных жытлаў слупавой канструкцыі. Адно з іх (шыр. 4,5 м, даўж. 9,5 м) адносілася да ранняга перыяду, другое (памеры 3,8—4×8,3 м) — да позняга. Ад астатніх жытлаў захаваліся слупавыя ямы і агнішчы. Жытлы былі падзелены на асобныя жылыя камеры. Агнішчы круглай і авальнай формы з пласта пяску былі абкладзены ўмазанымі ў гліну камянямі. Ранні перыяд скончыўся вял. пажарам. У позні перыяд (2—4 ст. н. э.) гарадзішча было заселена поўнасцю. Край пляцоўкі падсыпаны суглінкам і супескам, што зрабіла схілы больш стромкімі. З паўд. і ўсх. бакоў насыпаны валы і выкапаны равы, а па краі пляцоўкі пабудавана драўляная сцяна.

Знойдзена вял. колькасць рэштkаў посуду. Для ранняга перыяду характэрны гаршкі з выпуклым тулавам і плоскім ці круглым дном, прамым і адагнутым венчыкам, дакладным плечуком, упрыгожаныя ямачнымі адбіткамі на шыйцы, а таксама касцяныя сякеры, дзяржанні нажоў і сярпоў, шпількі, вастры. У позні перыяд пераважалі рабрыстыя пласкадонныя пасудзіны з увагнутай гарлавінай, кароткай шыйкай і слабавыраженым плечуком і пасудзіны слоікавых форм. У верхняй частцы пасудзіны ўпрыгожваліся зашчыпамі, насечкамі і ямкамі. Знойдзены жал. сякеры, сярпы, коп'і, посахападобныя шпількі, бронзавыя пярсцёнкі, скроневыя кольцы, трапецападобныя і акулярападобныя падвескі, выпуклыя бляшкі (адна ўпрыгожана ажурным арнаментам у выглядзе стылізаванай выявы 2 галовак арла, павернутых адна да адной), гліняныя прасліцы. Гасп. прыпасы захоўваліся ў ямах-паграбах круглай (дыям. 2,3 м), авальнай (3×1,6 м) і грушападобнай (1,6×1,3) формы. На гарадзішчы трапляюцца крушні камянёў на пляцоўках памерам ад 0,6×1,8 м да 6×10 м.

*Літ.:* 785, 847. *А. Р. Мітрафанаў.*

**ЛАГО́ЙСК,** гарадскі пасёлак, цэнтр Лагойскага р-на, на р. Гайна, за 40 км на ПнУ ад Мінска, 31 км ад чыг. ст. Смалявічы на лініі Мінск — Орша, аўтадарогамі звязаны з Мінскам, Смалявічамі, Бягомлем, Вілейкай.

Гарадзішча стараж. Л.— Замчышча размешчана на правым беразе р. Гайны (цяпер тут парк культуры і адпачынку). Пляцоўка пл. 1,5 га ўмацавана валам выш. 3 м і ровам. Даследаваў у 1966, 1968, 1971 Г. В. Штыхаў, раскапана 420 м². Культурны пласт 0,8—1,2 м, у паўн.-ўсх. частцы раскопу — да 1,7 м, мае 2 гарызонты — верхні і ніжні, паміж якімі маецца праслойка пяску. У ніжнім гарызонце знойдзены невял. гаршчок з лінейным арнаментам 2-й пал. 10 ст. і некалькі абломкаў ляпнога посуду, шмат фрагментаў кухонных гаршкоў, пашыраных у Полацкай зямлі ў 11—13 ст., а таксама жал. наканечнікі стрэл, шпоры, стрэмя, дэталі замкоў, спружынныя нажніцы, фігурны разец (лыжкар), ключы ад навясных замкоў, гіра ад вагаў. Сярод іншых знаходак: шыферныя прасліцы, фрагменты шкляных бранзалетаў (карычневага, зялёнага і сіняга колераў), касцяныя трапецападобныя грабяні, абломкі амфар, керамічныя пліткі для падлогі (адна з іх квадратная памерам 8 см, таўшч. 2 см, пакрытая жоўтай палівай, у гліне шмат жарствы), вырабы з каляровых металаў (бронзавыя падвеска-канёк з цыркульным арнаментам, падковападобная спражка). У верхнім гарызонце знойдзены абломкі пасудзін з зялёнай палівай і пячная кафля, непаліваныя гаршкі 14—17 ст., завал буд. матэрыялаў 16—18 ст.— цэглы і зялёнай паліванай кафлі. Пры зачыстцы вала з унутранага боку на глыб. 1 м знойдзены фрагменты паліванай кафлі і посуду 16—18 ст. разам з абломкамі керамікі 12—13 ст. З Пд да замчышча прымыкаў пасад стараж. горада, культурны пласт якога моцна пашкоджаны перакопамі. Славянскае паселішча на Гайне ўзнікла раней, чым звесткі пра Л. трапілі ў пісьмовыя крыніцы.


Гліняная пасудзіна з гарадзішча **Лабеншчына.**


Бронзавая прывеска-«канёк» 11—12 ст. з **Лагойска.**


Жалезная гіра ад бязмена 12 ст. з раскопак **Лагойска.**

Л. (летапісны Л о г о ж с к, Л о г о ж е с к) упершыню ўпамінаецца ў «Павучанні» Уладзіміра Манамаха ў сувязі з падзеямі, што адбываліся ў 1078. На думку мовазнаўцаў, назва паходзіць ад р. Лагазы. У апошняй чвэрці 11 ст. Л.— горад-крэпасць Полацкай зямлі. У час паходу вял. кн. кіеўскага Мсціслава Уладзіміравіча на Полацкую зямлю ў 1127 Л. быў разрабаваны, а жыхары захоплены ў палон, горад перайшоў да Ізяслава Мсціславіча. У 1132 Л. вернуты дынастыі полацкіх князёў. З 1180 вядома асобная Лагожская воласць (княства) Полацкай зямлі, дзе княжылі Усяслаў Мікуліч, з 1186 сын мінскага кн. Васілька Валадаравіч. З 1-й чвэрці 14 ст. Л. у складзе ВКЛ. Тут існаваў праваслаўны манастыр Іаана Прадцечы. У 1387 вял. кн. літоўскі Ягайла падараваў Л. свайму брату Скіргайлу. У 1392 ён перайшоў ва ўладанне вял. кн. літоўскага Вітаўта, які яшчэ больш умацаваў горад. Пазней А. належаў князям Чартарыйскім і Тышкевічам. У 1505 крымскія татары захапілі і спалілі замак і горад, а насельніцтва паланілі. У 1531—32 уладальнік Л. Васіль Тышкевіч аднавіў замак і пабудаваў Богаяўленскую царкву, у 1609 Аляксандр Тышкевіч — мураваны касцёл. У 1673 Л. атрымаў прывілей на штотыднёвыя таргі і 2 кірмашы ў год. У час Паўн. вайны 1700—21 замак спалены шведамі і больш не аднаўляўся. Паводле 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) Л. у складзе Расійскай імперыі.

Тут нарадзіліся заснавальнікі бел. навуковай археалогіі К. П. *Тышкевіч* і Я. П. *Тышкевіч.* У 1842 яны стварылі *Лагойскі музей старажытнасцей,* экспанаты якога з'явіліся асновай для *Віленскага музея старажытнасцей.*

*Літ.:* 21, 804, 1342, 1346.

*Г. В. Штыхаў.*

**ЛАГО́ЙСКІ МУЗЕ́Й СТАРАЖЫТНАСЦЕЙ,** адзін з першых на Беларусі гісторыка-археал. музеяў. Засн. ў 1842 братамі К. П. *Тышкевічам* і Я. П. *Тышкевічам* у радавым маёнтку ў Лагойску. Размяшчаўся ў двухпавярховым палацы. Яго аснову склалі археал. знаходкі Тышкевічаў пры даследаванні курганоў, гарадзішчаў, замчышчаў на Міншчыне. У музеі захоўваліся: крыж з серабра і золата, 2 мячы з мініяцюрнымі партрэтамі С. Баторыя (16 ст.), шпага Пятра I, шведскія сцягі, адваяваныя С. Чарнецкім у 1656 у шведскага караля Густава, калекцыя зброі і інш. Па звестках П. М. *Шпілеўскага,* у нумізматычнай калекцыі музея было больш за 1 тыс. манет і медалёў, 3 тыс. кніг, у т. л. каля 500 — помнікі айчыннага кнігадрукавання. Захоўваліся стараж. рукапісы, карты. У 1855 на базе экспанатаў Л.м.с. Тышкевічы засн. *Віленскі музей старажытнасцей.*

*С. А. Акуліч.*

**ЛАГО́ЙСКІЯ ГАРАДЗІ́ШЧЫ,** археал. помнікі *штрыхаванай керамікі культуры* каля г. п. Лагойск.

Г а р а д з і ш ч а-1. За 1 км на ПнЗ ад Лагойска, ва ўрочышчы Замкавая гара. Пляцоўка амаль круглая, пл. 0,3 га, на схілах прасочваюцца рэшткі вала. Даследаваў у 1915 М. В. Шавельскі, абследавалі ў 1966 Г. В. Штыхаў, у 1979 М. І. Лашанкоў. Культурны пласт 0,3—0,5 м. Знойдзены невял. кавалкі ляпных пасудзін, рэшткі печаў-домніц, жал. шлак.

Г а р а д з і ш ч а-2. На паўд.-ўсх. ускраіне Лагойска каля дарогі ў в. Зембін, ва ўрочышчы Паненская гара. Займае высокі мыс на беразе р. Гайна. Пляцоўка памерам 30×20 м, з У умацавана валам і ровам. Даследавалі ў 1965 К. П. Шут, у 1966 Штыхаў, у 1979 Лашанкоў. Культурны пласт амаль адсутнічае. На схілах пляцоўкі знойдзены невял. кавалкі ляпных пасудзін.

*Літ.*: 1331.

*Г. В. Штыхаў.*

**ЛАЖ** (італьян. l'aggio), а ж ы о, дадатная курсавая розніца, надбаўка на манету пры разліках або пры абмене на інш. манеты, якая стыхійна ўстанаўліваецца рынкам. Адлюстроўвае рэальнае ўтрыманне каштоўнага металу ў манеце ў адрозненне ад яе *намінальнай вартасці.* Можа быць выкліканы таксама недастатковасцю ў грашовай масе якога-небудзь *наміналу,* які забяспечвае пэўную сферу грашовага абарачэння (напр., у сярэдзіне 17 ст. ў Рэчы Паспалітай практыкаваўся Л. на *соліды*). Л. узнікае пры змяненні суадносін коштаў манетных металаў (рацыо), што выклікае змяненне курсу залатых і сярэбраных манет адносна адна адной. Змяненне рацыо адбываецца звычайна з-за павышэння кошту золата.

З'яўленне Л. магчыма на розныя формы грашовага металу. У 1922 у сав. рэспубліках Л. на дарэвалюцыйную залатую манету складаў адносна злітка-вага золата 23—48 %. Ва ўмовах абарачэння папяровых грошай, забяспечаных грашовым металам, абмежаваны іх размен на паўнавартасныя металічныя манеты выклікае Л. на манеты з каштоўнага металу і абясцэньвае папяровыя грошы (узнікненне інфляцыі). Пры папярова-грашовым абарачэнні Л. можа адбывацца на стабільную валюту, што паказвае на перавышэнне рыначнага курсу над афіцыйным. У Рэчы Паспалітай Л. часам рэгламентаваўся сеймавымі ардынацыямі: універсал 2.3.1717 надаў орту (18 грошаў) і тынфу (30 грошаў) вартасць у 38 грошаў у шэлегах, г. зн. для ортаў Л. у шэлегах склаў 111 %, для тынфаў — 66 %, у тынфах для ортаў — 66 %. Дапушчэнне Л. ва ўмовах *біметалізму* кваліфікуецца як парушэнне закону. З 19 ст. Л. прынята паказваць у працэнтах. Адваротнае Л. адхіленне курсу ад наміналу ў бок паніжэння называецца дызажыо.

*І. І. Сінчук.*

**ЛАЗАРЭ́ВІЧ-ШАПЯЛЕ́ВІЧ** (Ш а п я л е в і ч) Леў Юльянавіч [1(13).10.1863, Віцебск — 28.1(10.2).1909], археолаг, філолаг, літаратуразнавец, гісторык літаратуры. Вучыўся ў Наварасійскім і Харкаўскім ун-тах (1882—87). Магістр усеагульнай літаратуры (1892), д-р філалогіі (1896). Дацэнт, прафесар Харкаўскага ун-та. Пад уплывам М. Ф. Кусцінскага, А. П. Сапунова, Е. Р. Раманава вывучаў матэрыяльную і духоўную культуру Беларусі. Займаўся праблемай крывічоў. З 1900 пастаянна выязджаў з экспедыцыяй у Гарадоцкі, Невельскі і Себежскі паветы. Вёў раскопкі доўгіх, круглых (паўсферычных) курганоў, якія, на думку Л.-Ш., знешне не адрозніваюцца ад сінхронных насыпаў інш. усх.-слав. тэрыторый. Ім знойдзены багаты інвентар у жаночых пахаваннях. Каштоўныя знаходкі з крывіцкіх курганоў перадаваў у Эрмітаж, Маскоўскі і Харкаўскі гіст. музеі, музей Віцебскага статыстычнага к-та.

*Тв.:* Извлечение из отчёта о раскопках... Витебск, 1900; Извлечение из отчёта... об экскурсиях и раскопках... Витебск, 1901; Извлечение из отчёта об исследованиях и раскопках, произведенных в 1901 г. в Витебской губернии // Известия Археологической комиссии. Спб., 1904. Вып. 6.

*Г. А. Каханоўскі.*

**ЛАКТЫШО́ЎСКІ МАНЕ́ТНЫ СКАРБ.** Знойдзены ў в. Лактышы Ганцавіцкага р-на ў 1941. Вядома 7067 медных, білонных і сярэбраных манет.

Р э ч  П а с п а л і т а я. Стэфан Баторый: гданьская чаканка — шэлег 1579. Зыгмунт III Ваза: літоўская чаканка — дэнарый двайны (18 экз.), 1620—27, шэлег (12) 1623—25, грош літоўскі (38) 1620—27; польская (каронная) чаканка — тэрнарый (3) 1627, шэлег (93) 1614—27, грош польскі (20) 1623, 1624, паўтарак (248) 1614—27, траяк (50) 1601—04, шастак (?); гданьская чаканка — грош (17) 1624—27; рыжская чаканка — шылінг (8) 1615—21. Ян II Казімір Ваза: літоўская і польская чаканка — шэлег-барацінка 1659—66 (?). Б р а н д э н б у р г. Георг Вільгельм: драйпёлькер (19 экз.) 1622—29. П р у с і я. Георг Вільгельм: шылінг (68) 1622—29. В е н г р ы я. Рудольф II: дэнарый 1577. Ш в е д с к а я  П р ы б а л т ы к а. Густаў II Адольф Ваза: рыжская чаканка — шылінг (48 экз.) 1624—28, драйпёлькер; эльблёнгская чаканка — шылінг (19) 1630, драйпёлькер (24) 1623, 1629—30, трайны грош (траяк) 1632. Крысціна Аўгуста Ваза: рыжская чаканка — шылінг (73) 1635—45; лівонская чаканка — шылінг (3) 1645; эльблёнгская чаканка — шылінг (14) 1634—35, драйпёлькер 1635. Адзін з найбуйнейшых грашовых скарбаў 17 ст., знойдзеных на Беларусі.

Ухаваны ў 2-й пал. 1660-х г. Зберагаецца ў Музеі Беларускага Палесся (Пінск).

*Літ.:* 1722.

*В. Н. Рабцэвіч.*

**ЛАТГА́ЛЫ** (латышскае latgali; у стараж.-рус. летапісах лътьгола, лотыгола), адно з латышскіх плямён, якое ў канцы 1-га — пач. 2-га тысячагоддзя жыло на тэр. сучаснай Усх. Латвіі, на правым беразе Даўгавы. Іх суседзямі былі на Пн — эсты, на ПнЗ — *лівы,* на Пд — селы, на У — *крывічы.*

Насельніцтва займалася земляробствам і жывёлагадоўляй. Была развіта апрацоўка жалеза і каляровых металаў. Будавалі ўмацаваныя паселішчы Кокнесе *(Кукенойс)*, Ерсіке *(Герцыке)*, Мукукалнс, Асатэ, Оліньreceived калнс, Пекаскалнс. Неўмацаваныя селішчы ў асноўным размяшчаліся пры гарадзішчах. Вылучаюцца паселішчы на насцілах сярод азёр (9—10 ст., вядома каля 10). Зрубныя абарончыя пабудовы ўзводзілі з 2 паралельных сцен. На паселішчах, асабліва ў Кокнесе і Ерсіке, знойдзена шмат рэчаў з Русі (шкляныя пацеркі, бранзалеты, пярсцёнкі, шыферныя прасліцы, абразкі). Пахаванне ў бескурганных могільніках па абраду трупапалажэння: мужчын хавалі галавой на У, жанчын — на З. Магільныя ямы ў плане авальныя або прамавугольныя, глыб. 0,5—0,9 м. Нябожчыкаў клалі на дошкі, якія высцілалі шарсцяной ці льняной тканінай, лубам ці бяростай. На тэр. могільнікаў знойдзены рытуальныя вогнішчы, што тлумачыцца шлюбнымі сувязямі Л. з крывічамі або літвой. У жаночых пахаваннях знойдзены жал. сярпы, прасліцы, шыйныя грыўні, вайнагі, дугападобныя ланцугатрымальнікі, пярсцёнкі, пацеркі з ракавін каўры (часта ў спалучэнні са шклянымі), у мужчынскіх — наканечнікі коп'яў, спражкі, манжэтападобныя бранзалеты, арбалетападобныя фібулы. Сякеры, бранзалеты, шпількі і падкowападобныя фібулы сустракаюцца ў мужчынскіх і жаночых пахаваннях. У 10—13 ст. ва ўсх. частцы Латгаліі вядомы быў курганны абрад пахавання. Знешне курганы не адрозніваюцца ад стараж.-рус., але іх пахавальны інвентар ідэнтычны з

рэчавым матэрыялам латгальскіх бескурганных могільнікаў. Палітычная структура Л. у 12 — пач. 13 ст. дзялілася на некалькі тэрытарыяльных аб'яднанняў з дзярж. упраўленнем, найб. значныя з якіх былі Ерсіке, Кокнесе, залежныя ад Полацка. У 13 ст. Л. заваяваны крыжакамі. Л. далі этнічную назву латышскаму народу. Этнонім захаваўся ў назвах некаторых вёсак на Віцебшчыне.

*Літ.:* 806. *Л. У. Дучыц.*

**ЛА́ТКА,** латушка, традыцыйны ганчарны выраб; глыбокая гліняная пасудзіна з высокім тулавам і шырокім венцам для смажання, тушэння страў (яешні, смажаніны) і пражання (гароху, семак). Назва Л. («латъка») сустракаецца ў старабел. пісьмовых крыніцах. Пры археал. раскопках знойдзена ў пластах 12—13 ст. у Гродне, Магілёве, Мазыры, Мсціславе. Найб. пашыраны на У і ПнУ Беларусі, дзе да 18 ст. выкарыстоўваліся непаліваныя і задымленыя Л., арнаментаваныя пазногцевымі насечкамі, часам з рыфленымі стужкамі па плечуку (Мазыр), хвалістым арнаментам (Панямонне), рэльефнымі пальцавымі зашчыпамі па плечуку (Падняпроўе).

**ЛА́ТКІ,** гл. ў арт. *Рудня-Спонічкая.*

**ЛА́ТЫ,** «зброя», пласціністы даспех воіна для засцерагання корпуса цела ад паражэння халоднай або агнястрэльнай зброяй. Вядомы са старажытнасці. Спачатку меў выгляд адзення са скуры ці тканіны з прымацаванымі да яго рагавымі, меднымі, бронзавымі, жалезнымі, стальнымі пласцінкамі. На Стараж. Усходзе, у Грэцыі і Рыме выраблялі і суцэльнаметалічныя даспехі. У 10—13 ст. у Еўропе, у т. л. і на Беларусі, выкарыстоўваліся пласціністыя, лускаватыя Л. і суцэльнаметалічны даспех з асобных частак для засцерагання тулава, рук і ног, якія ў гіст. крыніцах згадваецца як «зброя». Ён уключаў баявое наголоўе рознай формы, у асн. сфера-канічнай і купалападобнай (шышак, капалын, прылбіца, штурмак, місюрка). Да Л. адносіліся «панцирные бляхи передние и задние», панцырныя накаленнікі, зарукаўе, налакотнікі, рукавіцы, прыкрыццё шыі — абойчык. Вядомы «зброи бляховые», «зброи складаные», «зброи палерованые». На Беларусі вырабам Л. займаліся спец. майстры — платнеры. Пэўная колькасць Л. прывозілася з-за мяжы, трапляла ў якасці трафеяў. З ужытку Л. выйшлі ў 18 ст. *М. А. Ткачоў.*

**ЛАТЫГА́ЎКА,** курганны могільнік эпохі Кіеўскай Русі каля в. Латыгаўка Талачынскага р-на. Па дарозе на в. Царкавішча, на тэр. сучасных могілак. 10 курганоў дыям. 15—20 м, выш. 0,5—0,6 м, іх падножжы абкладзены вянкамі з камянёў. Захаванасць дрэнная. Насыпы параслі маладым лесам і хмызняком. Абследавалі ў 1959 Л. В. Аляксееў, у 1972 А. Р. Мітрафанаў. У 1973 З. М. Сяргеева раскапала 3 курганы. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на спіне, арыентаванае галавой на З. На поясе з левага боку трупа знойдзена падкавападобная спражка, на руцэ — драцяны пярсцёнак з заходзячымі канцамі, на чэрапе — бронзавая бляшка з рэшткамі эмалі. *В. М. Ляўко.*

**ЛАТЫШЫ,** стаянка бронзавага веку каля в. Латышы Дзятлаўскага р-на. За 1,5 км на З ад вёскі, на валападобным левабярэжжы Нёмана. Выявіў у 1970 М. М. Чарняўскі. Культурны пласт па краях таўшч.



М. І. Лашанкоў

0,2—0,3 м (яго цэнтр. частка развеяна).

Знойдзены крамянёвыя трохвугольныя наканечнікі стрэл, нажы, разнастайныя скрабкі, нуклеусы і інш., фрагменты гліняных ляпных пасудзін, у т. л. са штрыхоўкай.

*Літ.:* 1302.

**ЛАТЭ́НСКАЯ КУЛЬТУ́РА,** археал. культура кельцкіх плямёнаў, якія ў 2-й пал. 1-га тысячагоддзя да н. э. і ў пач. н. э. жылі на тэрыторыі Цэнтр. і Зах. Еўропы. Назву атрымала ад помніка Латэн у Швейцарыі. Паходжанне кельтаў звязваецца з больш ранняй *гальштацкай культурай.* Аснову перыядызацыі Л. к. складаюць рознага тыпу *фібулы:* раннелатэнскія (5 — пач. 3 ст. да н. э.), сярэднелатэнскія (3—1 ст. да н. э.), позналатэнскія (1 ст. да н. э.— 1 ст. н. э.).

Плямёны знаходзіліся на пачатковым этапе фарміравання рабаўладальніцкага грамадства. На рубяжы нашай эры былі заваяваны Рымскай дзяржавай. Л. к. змянілася т. зв. «правінцыяльнай рымскай культурай» Л. к. ўплывала на развіццё матэрыяльнай культуры суседніх народаў, у т. л. на культуры жал. веку Беларусі — мілаградскай, паморскай, штрыхаванай керамікі, днепрадзвінскай, юхноўскай і асабліва зарубінецкай.

*Літ.:* 1247. *Л. Д. Побаль.*

**ЛА́ЎРЫШАВА,** стаянка эпохі *неаліту* каля в. Лаўрышава Навагрудскага р-на. За 1,5—2 км на У ад вёскі, 200 м ад правага берага р. Нёман, на 1-й надпоймавай тэрасе, якая ўзвышаецца над поплавам на 2,5 м. Памеры 40×80 м. Помнік выявіў і абследаваў у 1987 У. У. Хартановіч. Культурны пласт да 0,5 м.

Знойдзены крамянёвыя адшчэпы, пласціны з рэтушшу, абломкі цясла, разец, 2 скрэблы, а таксама косці жывёл, фрагменты керамікі з насечкамі і наколкамі. Кераміка адносіцца да ранняга этапу *нёманскай культуры.*

*У. У. Хартановіч.*

**ЛАШАНКО́Ў** Міхаіл Іванавіч (н. 18.11.1951, в Новае Хорабрава Аршанскага р-на), беларускі археолаг. Канд. гіст. навук (1991). Скончыў Мінскі педагагічны ін-т (1977). З 1978 супрацоўнік Ін-та гісторыі АН Беларусі. Вывучае помнікі мілаградскай культуры (даследаваў гарадзішчы *Лiтнякі, Ліскі, Пятровічы, Рассвет,* Старое Краснае, *Ястрабка).* Устанавіў, што ранні пласт на ўсходнепалескіх гарадзішчах адносіцца да 2-й пал. 7 ст. да н. э. У 1979—80 выкладаў у Мінскім педагагічным ін-це, у 1980—83 кіраваў археал. практыкай студэнтаў Гомельскага ун-та.

*Тв.:* О хозяйственных занятиях населения болотных городищ Южной Белоруссии // Древности Белоруссии и Литвы. Мн., 1982; Городища бассейна Брагинки // Древнерусское государство и славяне. Мн., 1983; Исследования в междуречье Днепра и нижней Припяти // Археологические открытия 1985 года. М., 1987; Укрепления городища Ястребка // Древности Литвы и Белоруссии. Вильнюс, 1988; Тыпалогія гліняных грузікаў з усходнепалескіх гарадзішчаў мілаградскай культуры // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1989. № 5.

**ЛЕБЯДО́ЎСКАЯ КУЛЬТУ́РА,** археал. культура эпохі позняй бронзы. Назва паходзіць ад найб. тыповага паселішча в. Лебядоўка Верхнядубчанскага р-на Кіеўскай вобл. У самастойную культуру вылучыла ў 1976 С. С. Беразанская. Датуецца 11—9 ст. да н. э. На думку І. І. Арцёменкі не з'яўляецца самастойнай культурай, Л. к.— позні этап *сосніцкай культуры.*

Тэрыторыя яе пашырэння і межы дакладна не вызначаны, асабліва ў адносінах да тэр. Беларусі. Беразанская акрэслівае яе паўн. мяжу Дзясной і Сеймам, а на тэр. Беларусі лічыць яе помнікамі селішчы той эпохі ў нізоўях Прыпяці. Арцёменка позні этап сосніцкай культуры пашырае на ўсё Бел. Падняпроўе. Стацыянарныя раскопкі помнікаў гэтай культуры на Украіне і на Беларусі не праводзіліся. Для Л. к. характэрны грубыя гаршкі з дамешкам у гліну жарствы ці буйнога пяску, цюльпанападобнай ці яйцападобнай формы, са слабапрафіляваным тулавам і вузенькім неўстойлівым дном, пад венчыкам арнаментаваныя наколамі круглай палачкі ці трэскі. Сярод

крэмянёвых прылад характэрны невял. наканечнікі стрэл ромбападобнай формы з тронкамі. Металічныя вырабы рэдкія. На Беларусі раскопкі помнікаў лебядоўскага тыпу праводзіў М. У. Бычкоў на паселішчы *Заспа* Рэчыцкага р-на і курганным могільніку з трупаспаленнем *Прыбар* Гомельскага р-на. Матэрыялы раскопак сведчаць пра сувязь Л. к. з *мілаградскай культурай.*

*Літ.:* 81, 124. *М. У. Бычкоў.*

**ЛЕГЕ́НДА** (ад лац. legenda тое, што належыць прачытаць) у **н у м і з м а т ы ц ы**, баністыцы, сфрагістыцы, надпіс на аб'екце даследавання. Па форме напісання Л. бывае гарызантальная (радковая), дугавая (кругавая, паўкругавая), вертыкальная. Паўкругавая верхняя Л. чытаецца па ходу гадзіннікавай стрэлкі, ніжняя — супраць ходу. Часта на адным полі манеты спалучаюцца дугавая і гарызантальная Л. Адрозніваюць суцэльную Л. і разарваную, калі разрыў зроблены іншым надпісам, знакам пасярэдзіне або паміж пачаткам і канцом Л. Па месцы размяшчэння ў полі манеты Л. падзяляюць на прыгуртавыя (змешчаны ўздоўж краю кружка), бакавыя (размешчаны па баках выявы), нізавыя (знаходзяцца на абрэзе манеты — месцы пад гарызантальнай рысай, пад выявай). Паводле тэхнікі выканання Л. бываюць рэльефныя, контррэльефныя і камбінаваныя. Не з'яўляюцца Л. асобныя лічбы, літары і словы, што не маюць адносін да сюжэта відарыса (надпіс медальера, серыйны нумар, знакі манетнага двара, падскарбія, арандатара, гравёра і інш. *дыферэнты).*

*Літ.:* 1570. *І. І. Сінчук.*

**ЛЕЙКАПАДО́БНЫХ КУ́БКАЎ КУЛЬТУ́РА**, археал. культура неалітычных і энеалітычных плямён, якія ў 4—3-м тысячагоддзях да н. э. жылі на тэрыторыі Паўн. і Цэнтр. Еўропы, сучаснай Польшчы, паўн.-зах. часткі Украіны і (на познім этапе) паўд.-зах. часткі Беларусі. Назва па наяўнасці ў кераміцы кубкаў з лейкападобнай (канічнай) шыйкай. Насельніцтва займалася аселым земляробствам (зямлю апрацоўвала, магчыма, з дапамогай запрэжаных у ра́ла быкоў), жывёлагадоўляй (разводзіла буйную і дробную рагатую жывёлу, свіней і інш.), паляваннем. Знаходзілася на стадыі патрыярхату. Паселішчы найчасцей размяшчаліся на мысах высокіх берагоў рэчак ці азёр, некаторыя былі абаронены равамі і валамі. Жытлы — невял. прамавугольныя ў плане зямлянкі, паўзямлянкі і наземныя пабудовы слупавой канструкцыі сярэднім памерам 5×4 м. Будавалі таксама вял. жытлы даўж. да 80 м з некалькімі памяшканнямі даўж. да 3 м кожнае, трапляюцца круглыя дыям. 3 м. Унутры жытлаў размяшчаліся глінабітныя агнішчы, побач — гасп. ямы з абмазанымі глінай сценкамі дыям. 1,2 м. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў бескурганных могільніках, сустракаюцца мегалітычныя збудаванні памерам да 130×15×3 м з некалькімі пахаваннямі пад кожным.

Насельніцтва выраблялa касцяныя і рагавыя сякеры, матыкі, праколкі, верацёнападобныя наканечнікі дзідаў, кінжалы, лашчылы. Сярод крамянёвых прылад працы скошаныя нажы, разцы, праколкі, свердлы, клінападобныя чатырохгранныя і свідраваныя з грыбападобным абухом сякеры, пласцінападобныя сярпы, трохвугольныя наканечнікі стрэл і інш. Зрэдку трапляюцца медныя вырабы. Посуд прадстаўлены гліністымі біканічнымі гаршкамі з высокім канічным горлам і вушкамі, невял. гаршкамі з налепамі або борцікам пад венцам, амфарамі з вузкім горлам, друшлякамі. Посуд упрыгожвалі зігзагам пад венцам, косымі насечкамі, пальцавымі ўціскаламі, адбіткамі зубчатага штампа ці шнура, простымі геам. ўзорамі. З гліны выраблялі таксама прасліцы, грузікі, рытуальныя сякеркі. Ва ўсх. частцы арэала (Валынь і Брэстчына) помнікі Л. к. к. з'явіліся ў сярэднім неаліце (3,5—2,5 тыс. г. да н. э.). Іх уплыў на мясц. неалітычныя культуры Палесся прасочваецца да вусця Прыпяці (Цытылле Маларыцкага, Пішча Любомльскага, Мнёва Чарнігаўскага р-наў і інш.). Вядома каля 50 паселішчаў, якія даследавалі А. Н. Цынкалоўскі, Ю. М. Захарук, Н. А. Пелешчышын. На думку некаторых вучоных, плямёны Л. к. к. маюць дачыненне да этнагенезу стараж. германцаў.

*Літ.:* 87, 1132, 1443. *У. Ф. Ісаенка.*



Гліняныя прасліцы з гарадзішча **Леніна** (Слуцкі р-н).

**ЛЕМЯШЭ́ВІЧЫ**, стаянка неаліту і бронзавага веку, селішча ранняга жал. веку каля в. Лемяшэвічы Пінскага р-на.

**С т а я н к а.** За 3 км на Пн ад вёскі, на правым беразе р. Прыпяць, на пясчаным узвышшы (2—3,5 м над узроўнем вады) сярод забалочаных паплавоў. Даследавала ў 1981 В. С. Вяргей. Выяўлены рэчавы матэрыял эпохі неаліту (тронкавыя наканечнікі стрэл, скрабкі, ножападобныя пласціны, праколкі, інш. вырабы і загатоўкі з крэменю, фрагменты ляпных пасудзін) і бронзы (крамянёвы трохвугольны наканечнік стралы з выемкай у аснове, сярпы валынскага тыпу, наканечнік дроціка, рэшткі ляпных пасудзін з шнуравым і пракрэсленым арнаментам).

**С е л і ш ч а.** На месцы неалітычнай стаянкі. Адкрыла ў 1980, даследавала ў 1981 Вяргей (700 м²). Культ. пласт 0,15—0,4 м. Выяўлена каля 100 розных па форме гасп. ям з попелам, вуголлем і рэшткамі ляпных гладкасценных пасудзін. Даследаваны 2 жытлы (катлаваны 3,7×2,4, 3,6×2,2 м), заглыбленыя ў мацярык (0,25 і 0,43 м), арыентаваныя па баках свету. Мелі невялікія агнішчы на земляной падлозе, побач з імі — ямы-паграбы. У запаўненні жытлоў знойдзены фрагменты керамікі *мілаградскай культуры.*

На селішчы выяўлены рэчавы матэрыял жалезнага веку (каля 4 тыс. фрагментаў ляпной керамікі, прылады працы, зброя, прадметы побыту і ўпрыгожанні з жалеза, бронзы, шкла). Найбольш поўна прадстаўлены рэчы мілаградскай культуры: плоскі жалезны наканечнік стралы з 2 шыпамі (7—6 ст. да н. э., аналагі ў ранніх пластах гарадзішчаў *дзякоўскай культуры),* маленькія шпількі з спіральным навершшам (сустракаюцца на помніках позняга бронзавага веку), скіфская завушніца (6—5 ст. да н. э.) і бронзавыя наканечнікі стрэл (4—3 ст. да н. э.), гліняныя крыжападобныя грузікі, гладкія таўстасценныя гаршкі, аздобленыя валікам, гаршкі з высокім адагнутым венчыкам і пукатым тулавам і інш. Храналогія знаходак сведчыць, што мілаградскае насельніцтва пасялілася на месцы стаянкі на рубяжы 7—6 ст. да н. э. Знойдзены рэчы *зарубінецкай культуры,* у асн. кераміка (грубаляпныя гаршкі з шурпатай або бугрыстай паверхняй, глянцаваныя міскі, кубкі з вушкам, накрыўкі), а таксама вял. фрагмент сярпа, нажы, пацеркі позняга жал. веку (14-гранныя фіялетавыя, круглыя зеленаватыя са шкла, чорныя, белыя і чырвоныя паставыя і інш.), бронзавая падвязная фібула, вядзерцападобныя падвескі і інш. Зарубінецкі перыяд селішча датуецца 2-м ст. да н. э.— 1-м ст. н. э. *В. С. Вяргей.*

**ЛЕ́НІНА**, гарадзішча *мілаградскай культуры* каля в. Леніна Добрушскага р-на. За 3,5 км на ПнЗ ад вёскі, на левым беразе ручая Гараджанкі (прыток р. Вуці), ва ўрочышчы Дубіно. Мясц. назва Гарадок. Пляцоўка памерам 550 м² чатырохвугольная, арыентавана вугламі па баках свету, абкружана 2 валамі (выш. унутранага 2,5, знешняга — 1,5 м). У 1983 даследаваў С. Я. Расадзін. Раскапана 100 м² у паўн.-зах. частцы пляцоўкі. Культурны пласт таўшч. 1—0,4 м.

Знойдзены рэшткі керамікі (рэканструяваны невял. гаршчок з яйцападобным тулавам), керамічныя сасудападобныя грузікі, біканічныя прасліцы (адна ўпрыгожана арнаментам у выглядзе заштрыхаваных трохвугольнікаў), гліняная форма для адліўкі бронзавага бранзалета латэнскага тыпу (гл. ў арт. *Латэнская культура).*

Датуецца 7—1 ст. да н. э.

*С. Я. Расадзін.*

**ЛЕ́НІНА,** гарадзішча *штрыхаванай керамікі культуры* і эпохі Кіеўскай Русі каля в. Леніна Слуцкага р-на. За 200 м на Пн ад вёскі, на левым беразе р. Морач. Пляцоўка прамавугольная з закругленымі вугламі, памер 60×45 м, умацавана валам выш. 5 м, шыр. 15 м і неглыбокім ровам. Па краі пляцоўкі абарончыя ўмацаванні, якія неаднаразова падсыпаліся. Абследаваў у 1973 А. А. Егарэйчанка, даследаваў 216 м² у 1980 М. Ф. Гурын. Культурны пласт 0,4—0,5 м.

Знойдзены фрагменты ляпной штрыхаванай і гладкасценнай керамікі, ганчарнага посуду, гліняныя прасліцы (некаторыя арнаментаваны наколамі і ў выглядзе промняў), жал. нажы, наканечнік стралы, кіяпадобная шпілька, шыла, бронзавы крыжык 15 ст., косці дзікіх і свойскіх жывёл, вырабы з крэменю, кавалкі жал. шлаку. У мацерыку выяўлена 17 ям (некаторыя з іх гаспадарчыя), у прарэзцы вала на глыб. 2,5—3 м — рэшткі абвугленых драўляных канструкцый.

*Літ.:* 280. *М. Ф. Гурын.*

**ЛЕНІНГРА́ДСКАЕ АДДЗЯЛЕ́ННЕ ІНСТЫТУ́ТА АРХЕАЛО́ГІІ** Акадэміі навук СССР, гл. *Інстытут гісторыі матэрыяльнай культуры* Расійскай акадэміі навук.

**ЛЕ́ПЕЛЬСКІ ЗА́МАК.** Размяшчаўся на востраве воз. Лепельскае, насупраць в. Стары Лепель. Пабудаваны ў час Лівонскай вайны 1558—83. У 1562 замак меў сталы гарнізон, узброены ручніцамі і артылерыяй. У 1563 рус. войскі пасля ўзяцця Полацка занялі і спалілі Л. з., залажылі на замчышчы астрог і пакінулі ў ім значны гарнізон. У тым самым годзе войскі ВКЛ на чале з гетманам М. Радзівілам Рудым штурмам узялі яго і спалілі. Неўзабаве ўмацаванні былі аднаўлены, і ў 1563 побач было заснавана «места» Лепель. У 1568 пачалося ўзвядзенне новага драўлянага замка. Яго будавала мясц. насельніцтва пад кіраўніцтвам лепельскага старосты і полацкага кашталяна Юрыя Зяновіча. Замак меў прамавугольную форму з вуглавымі фланкіруючымі вежамі. З паўн. боку замак ад «места» аддзяляў шырокі роў, які часткова папаўняўся вадой з возера. У нанава пабудаваным замку размясціўся гарнізон з 200 коннікаў і 100 салдат-«драбаў». У 1563 і 1564 у замак Віленскага цэйхгауза двойчы былі адпраўлены вял. партыі агнястрэльнай зброі і амуніцыі. Дастаткова ў замку было і артылерыі. У 1580 «места» налічвала 300 дамоў, якія размяшчаліся на востраве і на зах. беразе возера. Каля замка і пад яго сховай знаходзіўся гандл. порт. У 1586 Лепель адкупіў падканцлер ВКЛ Л. Сапега. За 5 км ад горада ў в. Белае ён заснаваў новае мястэчка, якое атрымала назву Новы або Белы Лепель, куды быў перанесены гандл. цэнтр, пабудаваны ўмацаваны замак, царква і касцёл. У сувязі з гэтым Стары Лепель занепаў і паступова ператварыўся ў вёску.

*Літ.:* 245, 309. *М. А. Ткачоў.*

**ЛЕ́ПЕЛЬСКІ КРАЯЗНА́ЎЧЫ МУЗЕ́Й.** Адкрыты ў 1954 у г. Лепель. Пл. экспазіцыі 283 м², 10,9 тыс. экспанатаў асн. фонду (1991), у т. л. 500 археал. знаходак. Сярод іх каменныя сякеры, рубіла, зерняцёрка, разцы для апрацоўкі дрэва, косці, рога, знойдзеныя на гарадзішчы каля в. *Кастрыца.* Частка экспанатаў — знаходкі з раскопак на гарадзішчы каля в. *Бораўна:* бранзалеты, медныя кольцы, жал. серп, нож, булаўка, наканечнік кап'я. Прадстаўлены знаходкі з курганнага могільніка каля в. *Глыбочыца:* шкляная пацерка ў медным абрамленні, шматлікія прасліцы, фрагменты керамікі. Экспануюцца абломак біўня маманта, гарпун-страла з косці, рог тура і інш. У нумізматычнай калекцыі 450 манет ВКЛ, Рэчы Паспалітай, Рускай дзяржавы і інш. *В. Я. Ланікіна.*

**ЛЕ́ПЕЛЬСКІЯ ГАРАДЗІ́ШЧЫ,** археал. помнікі *штрыхаванай керамікі культуры* жал. веку ў ваколіцах г. Лепеля.

Г а р а д з і ш ч а-1. За 2,5 км на З ад Лепеля, на месцы былой в. Гарадок. Абследавалі ў 1931 А. М. Ляўданскі, у 1972 А. Р. Мітрафанаў. Пляцоўка амаль круглая, памеры 40×38 м, умацавана валам выш. 1,2—1,5 км, шыр. 7—10 м. Культурны пласт да 1 м. Знойдзены штрыхаваная кераміка, абломкі печаўдомніц, кавалкі жал. шлаку, косці свойскіх і дзікіх жывёл. Датуецца 3—4 ст. н.э.

Г а р а д з і ш ч а-2. На невял. востраве Лепельскага воз. Абследавалі ў 1931 Ляўданскі, у 1969 Г. В. Штыхаў, у 1972 Мітрафанаў, у 1981 Ю. А. Заяц. Пляцоўка круглая, дыям. 60 м, выш. 1,5 м. Знойдзена ляпная штрыхаваная кераміка. Датуецца 3—4 ст.

Тут жа ў 1929 А. Шашалевіч выявіў селішча 10—12 ст. са стараж.-рус. керамікай, упрыгожанай хвалістым і лінейным арнаментам.

Г а р а д з і ш ч а-3. На востраве Лепельскага воз. плошчай каля 25 га, насупраць в. Стары Лепель. Займае адзін з пагоркаў. Адкрыў у 1969 Штыхаў, абследавалі ў 1969 і 1979 М. А. Ткачоў, у 1972 Мітрафанаў, у 1981 Заяц. Пашкоджана больш познім могільнікам. У абрыве пляцоўкі, падмытай возерам, знойдзена ляпная штрыхаваная кераміка, косці жывёл, абпаленыя камянямі, вуголле, шлак. Датуецца 3—4 ст.

Тут жа выяўлена с е л і ш ч а, на якім знойдзена шмат ганчарнай керамікі 14—16 ст., медныя бранзалеты-«змеегаловікі», пярсцёнкі, шкляныя пацеркі, жал. наканечнікі стрэл 14—16 ст., шпора, манеты 15—16 ст. і інш. рэчы. На востраве размяшчаўся *Лепельскі замак.*.

*Літ.:* 709, 712, 718. *В. М. Ляўко.*

**ЛЕ́ПЕЛЬСКІЯ КУРГА́ННЫЯ МО́ГІЛЬНІКІ,** археал. помнікі ў ваколіцах г. Лепеля.

М о г і л ь н і к-1. За 700 м на ПнЗ ад в. Занькі, ва ўрочышчах Барок і Чорная гразь. Мясц. назва Валатоўкі. Больш за 100 насыпаў выш. 0,7—4,5 м, дыям. 5—20 м, некаторыя маюць каля асновы раўкі. У пач. 20 ст. 9 насыпаў выявіў і раскапаў М. Ф. Кусцінскі, у 1981 могільнік абследаваў Ю. А. Заяц.

М о г і л ь н і к-2. На беразе канала, што злучае азёры Проша і Лепельскае. У 1887 Кусцінскі даследаваў 3 насыпы. Выяўлена жаночае пахаванне, у якім знойдзены 2 бранзалеты з бронзавага дроту з нанізанымі пацеркамі (2 шкляныя пазалочаныя, 8 паставых), бронзавы драцяны пярсцёнак, 7 скроневых кольцаў, 80 зялёных шкляных пацерак.

М о г і л ь н і к-3. За 4 км ад Лепеля, каля в. Грошаўка. 8 насыпаў. Даследаваў Кусцінскі. Знойдзены 3 скроневыя кольцы з бронзавага дроту, пласціністы бронзавы пярсцёнак, каралі з бісеру, 2 бронзавыя і 2 жал. пярсцёнкі, пацеркі (126 зялёных, 50 пазалочаных шкляных, 1 сердалікавая прызматычная і 2 аметыставыя).

*Літ.:* 629. *В. М. Ляўко.*

**ЛЕ́ПЕЛЬСКІЯ СТАЯ́НКІ,** стаянкі эпохі мезаліту каля г. Лепель.

С т а я н к а-1 *грэнскай культуры.* На зах. беразе воз. Лепельскае, ва ўрочышчы Пясчаніца, на левым беразе ручая, што злучае азёры Святое і Лепельскае. Выявіў у 1981, даследаваў у 1989—90 У. П. Ксяндзоў (ускрыта 498 м²). Памер 150×30 м. Культурны пласт 0,2 м, пашкоджаны ворывам.

Знойдзены крамянёвыя вырабы (разцы, скрабкі, наканечнікі стрэл, скоблі, выемчата-зубчастыя прылады, адбівальнік, рэтушоры, адшчэпы, пласціны, нуклеусы), фрагменты ляпной керамікі жал. веку.

Датуецца 7—8-м тысячагоддзямі да н. э.

С т а я н к а-2. На зах. беразе воз. Лепельскае, на правым беразе ручая, што злучае азёры Святое і Лепельскае. У літаратуры вядома пад назвамі Вусце Эсы, Жарцы. Выявіў і абследаваў у 1966 І. М. Ціханенкаў. Культурны пласт разбураны ў выніку гасп. работ. У агаленнях знойдзены постсвідэрскія наканечнікі стрэл, вуглавы разец, мікраскрабок, прылады-ўкладышы, пласціны і адшчэпы з рэтушшу і без рэтушы.

*Літ.:* 1185. *У. П. Ксяндзоў.*

**ЛЕ́СВІЦА,** у с х о д ы, збудаванне ў выглядзе ступеней для пад'ёму і спуску. У Кіеўскай Русі Л.— дэталь шмат'ярусных (найчасцей двух'ярусных) пабудоў і жытлаў з падклеццю. Лесвіца-слуп пачатку 14 ст. даўж. 3,41 м з 6 высечанымі ступенямі знойдзена на замчышчы ў Мінску. У Бярэсці выяўлена 6 лесвіц-слупоў 13—14 ст. трох відаў: зроблена з тоўстай плашкі, у якой наскрозь прасечаны адтуліны — ступені; ступені высечаны ў круглым бервяне; глыбокія ступені зроблены ў паўкруглай тоўстай плашцы. Дзве Л. захаваліся на поўную вышыню — 2,46 і 3,43 м. Тры Л. знойдзены ў Гродне, адна — у Слуцку. У Віцебску і Мінску выяўлены больш складаныя маршавыя Л.

*Літ.:* 702. *Г. В. Штыхаў.*

**ЛЕ́ТА-ЛІТО́ЎСКІЯ ПЛЯМЁНЫ,** балцкія плямёны, якія ў сярэдневечны займалі большую частку тэр. сучасных Літвы і Латвіі: *літва, аўкштайты,* селы, *латгалы,* земгалы, *жэмайты* і інш. (гл. таксама *Балты).*

**ЛЁВЕНДАА́ЛЬДЭР** (фламан. leeuwendaalder львіны талер, рус. л е в о к, бел. л я в о к, т а л я р  л я ў к о), разнавіднасць талернай манеты. Упершыню выпушчана паўн. Нідэрландамі ў 1575. Сістэматычны выпуск пачаўся ў пач. 1580-х г. пасля аб'яднання 7 паўночнанідэрландскіх правінцый у Рэспубліку Злучаных правінцый. З канца 1590-х г. адкрыта спарадычная чаканка палавіннай фракцыі Л.— паўлёвендаальдэра. Эмісія абедзвюх манет вялася ад імя правінцый і асобных гарадоў. На *аверсе* Л.— рыцар у поўны рост, павернуты ўлева (галава — ўправа), абапіраецца на геральдычны шчыт з выявай льва на задніх лапах, які ідзе ўлева. На *рэверсе* — на ўсім полі выява льва, які на шчыце аверса. На абодвух баках кругавыя легенды. *Метрычная проба* 750, *лігатурная маса* 27,65 г.

**Правінцыяльная чаканка:** В е с т ф р ы з і я — манетны двор Энкхёйзен (Л. 1603—18, 1626—31, 1637—43, 1649—55, 1671—80, 1701), манетны двор Хорн (Л. 1622—25, 1631—37, 1643—49, 1661—70, 1697—1701), манетны двор Медэмблік (Л. 1687, 1713), невядомы манетны двор (Л. 1627); Ф р ы з і я — манетны двор Леўвардэн (Л. 1615—42): Г е л д э р н — манетны двор Хардэрвійк (Л. 1589, 1597—1602, 1607, 1610, 1622, 1631, 1635—59, 1662—63, 1666—68, 1674—81, 1694, 1697—1701, 1706—07, 1710, 1713, паўлёвендаальдэр 1607, 1610, 1635—51); Г а л а н д ы я — манетны двор Дардрэхт (Л. 1592, 1597—1601, 1604—06, 1615—20, 1622—57, 1661—68, 1674—76, 1679—83, 1685—87, 1697, паўлёвендаальдэр 1615—20, 1622—26, 1628—52); З е л а н д ы я — манетны двор Міндэлбург (1591—99, 1601, 1606—07, 1612—19, 1623—30, 1632—45, 1651—57, 1680, паўлёвендаальдэр 1612—19, 1623—30, 1651—55); А в е р э й с е л — манетны двор Кампен (Л. 1582—93, 1606—07, 1616, 1626, 1675—92, 1699—1701, паўлёвендаальдэр 1620), манетны двор Дэвентэр (Л. і паўлёвендаальдэр 1620), манетны двор Зволе (Л. і паўлёвендаальдэр 1639); У т р э х т — манетны двор Утрэхт (Л. 1597—1601, 1606—08, 1615—18, 1620, 1622—33, 1640—58, 1660—68, 1674—76, 1679—83, 1685—92, 1696—98, 1700, паўлёвендаальдэр 1597—1600, 1606—08, 1615—18, 1628—33). **Гарадская чаканка:** Г е л д э р н — г. Неймеген (Л. 1687—91), г. Зютфен (Л. 1687—92); А в е р э й с е л — г. Зволе (Л. 1637, 1639—42, 1646, 1648, паўлёвендаальдэр 1644, 1648, 1650—52, 1661—70, 1674—83, 1685—92), г. Дэвентэр (1640—44, 1662—63, 1664—66, 1687—88, 1691—92, 1698), г. Кампен (Л. 1676—93). Л. найб. пашыраны на Бліжнім Усходзе, дзе называўся «абукельбам» (араб. бацька сабакі), таму што выява льва прымалася за сабаку. У некаторых краінах Еўропы (Аўстрыя, Данія, Германія, Італія і інш.) чаканілі *манеты-перайманні* Л.



**Лесвіца** 13—14 ст. з Гродна.

Найбольшае паступленне Л. на тэр. Беларусі адзначана ў канцы 1640-х г. (упершыню зафіксаваны ў пісьмовых крыніцах у 1578). Л. саступаў талернаму якаснаму стандарту і абарачаўся па больш нізкім за паўнавартасны талер рыначным курсе.

*Літ.:* 1579, 1648, 1747. *В. Н. Рабцэвіч.*

**ЛІВАНЕ́ЗЫ,** білонныя і сярэбраныя манеты, чаканеныя ў талернай сістэме для Ліфляндскай і Рэвельскай губ. Расійскай імперыі ў 1756—57 для выцяснення на гэтай тэр. іншаземнай манеты з далейшай заменай яе на рускую. Выпускаў Красны манетны двор (гл. ў арт. *Манетныя двары Расійскай дзяржавы)* з лацінскімі легендамі і наміналамі: 2 капейкі — $^1/_{48}$ Л. *(залатніковая проба* 36, лігатурная маса 1,05 г), 4 капейкі — $^1/_{24}$ Л. (проба 72, маса 1,10 г), 24 капейкі — чвэрць Л. (проба 72, маса 6,59 г), 48 капеек — паўліванез (проба 72, маса 13,19 г), 96 капеек — Л. (проба 72, маса 26,38 г). З выпуска 1756 вядома толькі пробная манета, у 1757 выпушчана двухкапеечнікаў 49 500, чатырохкапеечнікаў — 581 858, чвэрць ліванезаў — 125 680, паўліванезаў — 42 450, Л.— 27 000 экз.

*Літ.:* 1617, 1620. *В. С. Касмылёў.*

**ЛІ́ВЫ,** племя фіна-угорскага паходжання. Займалі землі, што прылягалі да Фінскага заліва, у басейнах Даўгавы і Гаўі, паўн. частку Курземскага паўвострава. У рус. летапісах наз. лібь. Сярод помнікаў Л. 10—12 ст. гарадзішча і селішча Кентэскалнс — паселішча на месцы Рыгі, гарадзішча Айзкраўкле, селішчы Кабелес, Саласпілс, Лаўкскола. Насельніцтва займалася земляробствам і жывёлагадоўляй. Жыло ў паўзямлянкавых і наземных (аднакамерных зрубных) жытлах з ачагамі, радзей з печамі-каменкамі. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў бескурганных (Айзкраўкле, Саласпілс, Лаўкскола, Вампеніешы, Ідзіпі) і курганных (Стэдэры, Чыекуры, Прыедэ) могільніках.

Для даўгаўскіх Л. характэрны бескурганныя могільнікі і курганы, для Л., што жылі ў басейне Гаўі, толькі курганныя могільнікі. У склад пахавальнага інвентару абавязкова ўваходзілі гаршкі. У жаночых пахаваннях знойдзены авальныя (чарапахападобныя) фібулы, злучаныя нагруднымі ланцужкамі, шыйныя грыўны, рознакаляровыя шкляныя пацеркі, бронзавыя бранзалеты і пярсцёнкі, жал, нажы ў акаваных бронзай арнаментаваных ножнах, у мужчынскіх — прадметы ўзбраення і бытавыя рэчы. Сустракаецца і трупаспаленне. У 12—13 ст. Л. стаялі напярэдадні стварэння сваёй дзяржаўнасці, але гэты працэс быў спынены агрэсіяй крыжакоў. У выніку крыжацкіх паходаў колькасць насельніцтва Л. змяншалася і сюды пачалася міграцыя *латгалаў,* а ў Курземе — куршаў, што прывяло Л. да асіміляцыі. З 13 ст. ад этноніма «лівы» частка краю атрымала назву Лівонія. Нашчадкамі Л. з'яўляецца невялікая этнічная група ў Вентспілскім р-не Латвіі. *Л. У. Дучыц.*

**ЛІГАТУ́РА** (ад лац. ligatura звязванне), 1) зліванне 2 ці 3 літар, пры

якім элемент адной літары з'яўляецца агульным для іншых. Выкарыстоўваецца ў *легендах* на манетах і медалях для эканоміі плошчы *поля* манеты (лац. A і E — Æ, N і E — NE, M і R — MR і г. д.). Шырока выкарыстоўваецца ва ўсіх сферах лацінскага літарнага пісьма з 2 ст. да н. э., асабліва на перыферыі антычнага грамадства. У пач. 20 ст. кнігадрукаванне наборным шрыфтам значна паменшыла колькасць Л. Вядома ў надпісах кірыліцай на манетах рус. дзенежных двароў канца 14—17 ст. 2) Сплаў высакароднага металу (золата, серабро, плаціна) з нізкародным для надання ўстойлівасці да

сцірання і дэфармацыі манет або атрымання сыравіны для вырабу наміналаў з невял. утрыманнем чыстага манетнага металу. Колькаснае ўтрыманне ў сплаве высакароднага металу паказвае велічыня яго *пробы*. У манетнай справе найб. пашыраны Л. золата ў 900—980 *праміле*, серабра — 690—900 праміле.

*Літ.*: 1241, 1620, 1631. *І. І. Сінчук.*

**ЛІГАТУ́РНАЯ МА́СА** манеты, поўная маса манеты са сплавам грашовага высакароднага (золата, серабро, плаціна) і нізкароднага металу. Гл. таксама *Лігатура.*

**ЛІ́ДА**, горад, цэнтр Лідскага р-на, на р. Лідзея. За 110 км на ПнУ ад Гродна. Вузел чыгунак і аўтамабільных дарог.

Паселішча Л. ўзнікла ў 14 ст. на плато паміж рэчышчамі Лідзеі і Каменкі непадалёку ад іх сутокаў. Развіццю горада паспрыяла будаўніцтва ў 1330-я г. мураванага *Лідскага замка*, каля якога фарміраваўся пасад. Раскопкі на тэр. б. пасада на пл. каля 34 м² правялі ў 1980 А. А. Трусаў, у 1983 і 1987 А. К. Краўцэвіч. Культурны пласт да 2,5 м выяўлены паміж р. Лідзея і Каменка. Самыя стараж. матэрыялы (кераміка 14 — пач. 15 ст.) знойдзены за 100 м на ПнЗ ад замку. Сярод знаходак керамічны посуд (гаршкі, макотры, накрыўкі, міскі, талеркі, збаны, рынкі), кафля (гаршковая з прамавугольным вусцем, каробчатая з раслінным і геам. арнаментам, выявай анёла), шкляныя вырабы (шкляніцы, стопкі, бутэлькі, кварты, чаркі).

У пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца паміж 1323 і 1328. У 14—18 ст. Л. ўваходзіла ў ВКЛ. Вял. кн. Гедымін падараваў горад свайму сыну Кейстуту, той у 1346 — свайму брату Альгерду, які перадаў у 1370 Л. ў карыстанне свайму васалу Вайдыле. З 1381 — уладанне вял. кн. Ягайлы, з 1392 — вял. кн. Вітаўта. З 1384 Л. неаднаразова падвяргалася нападам крыжакоў, у 1406 — смаленскага кн. Юрыя Святаславіча. З 1560-х г. — цэнтр павета ў Віленскім ваяводстве. У 1587 атрымала



**Лёвендаальдэр:** Гельдэрн, 1641; 2. Утрэхт, паўлёвендаальдэр 1640.



**Ліванезы.** 1. 2 капейкі 1756; 2. 4 капейкі 1756; 3. 24 капейкі 1757; 4. 48 капеек 1756; 5. 96 капеек 1756.

магдэбургскае права. У час руска-польскай вайны 1654—67 горад разрабаваны і спустошаны рус. войскамі. У Паўн. вайну 1700—21 абрабаваны і часткова спалены шведскімі войскамі. Забудова Л. ў 15—18 ст. была тыповай для бел. гарадоў. Непадалёку ад замка знаходзілася плошча з ратушай. Тут сыходзіліся гар. вуліцы. У горадзе былі фарны касцёл, прыходская царква з 2 шпіталямі, кляштар піяраў, кляштар і касцёл кармелітаў, уніяцкая царква са шпіталем. У 2-й пал. 18 ст. 1,5 тыс. жыхароў. Паводле 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) Л. ўключана ў склад Расійскай імперы.

*А. К. Краўцэвіч.*

**ЛІ́ДСКІ ЗА́МАК.** Пабудаваны ў 1330-я г. з бутавага каменю і цэглы ў *Лідзе.* Уваходзіў у лінію процікрыжацкай абароны Навагрудак — Крэва — Меднікі — Трокі. За аснову замка ўзяты тып абарончага збудавання, вядомага пад назвай *кастэль.* Л. з. пастаўлены на насыпным пясчаным узгорку (выш. 5—6 м), быў абкружаны балоцістымі берагамі рэк Лідзея і Каменка, з Пн — ровам шыр. каля 20 м, які злучаў рэкі і аддзяляў замак ад горада. Пазней (верагодна, у 16—17 ст.) у сістэму перадзамкавых умацаванняў з У уключана штучнае возера. Замак у плане — няправільны чатырохвугольнік (93,5×83,5×80××84 м) з 2 вуглавымі вежамі. Асн. абарончае значэнне мелі пастаўленыя на невысокім падмурку (70—80 см) сцены выш. 12 м, таўшч. унізе 2 м, уверсе 1,5 м. Уверсе яны пераходзілі ў баявую галерэю, сценка якой была складзена з цэглы (таўшч. 7 см), не выступала за паверхню замкавага муру і мела адзін рад байніц 3 тыпаў. Байніцы размяшчаліся на адлегласці 2,4 м адна ад адной. Памост галерэі апіраўся на драўляныя бэлькі сячэннем 20××20 см. На паўд. і ўсх. сценах замка на каменных фігурных кансолях сталі 2 цагляныя прыбіральні — «каморкі патрэбныя». Ад паўд.-зах. вежы (пабудавана ў 1-й пал. 14 ст.) захаваліся толькі фрагменты падмуркаў, якія зроблены без перавязкі з замкавымі сценамі, але на адным узроўні з падмуркамі апошніх. Гэта сведчыць пра адначасовасць пабудовы замка і вежы, якая ў плане была квадратнай (11,3×11,3 м). Яе падмуркі (шыр. каля 3 м, глыб. да 70 см) складзены з вял. і сярэдніх камянёў, ніжнія рады якіх перасыпаны чырванаватай глінай, а верхнія пакладзены на вапнавым растворы. Паўн.-ўсх. вежа (узведзена ў канцы 14 — пач. 15 ст.) мела выгляд крыху перакошанага рознабаковага чатырохвугольніка (12×12,5×12,3××12,15 м) і была прыбудавана да замкавых муроў без перавязкі. Таўшч. яе сцен з боку двара дасягала 3 м, дакладка да сцен замка — 83 см. Падмуркі вежы закладзены на 70—80 см глыбей замкавых сцен, што сведчыць пра розны час іх будаўніцтва. Вежа мела аздоблены фігурнай цэглай арачны ўваход з боку двара і лесвіцу ў тоўшчы зах. сцяны шыр. 1 м з драўлянымі прыступкамі на цаглянай аснове. У паўн., усх. і паўд. сценах захаваліся пячныя нішы, якія служылі для ацяплення верхніх паверхаў. Першы паверх быў перакрыты крыжовым скляпеннем. Прасочаны рэшткі драўлянай падлогі. Абедзве вежы былі накрыты шатровымі дахамі і не выступалі за перыметр сцен. Для накрыцця вежаў выкарыстана паўцыркульная дахоўка. У Л. з. вялі 3 уваходы, 2 з якіх размяшчаліся ва ўсх. сцяне. Меншая брама шыр. 2,5 м і выш. 3 м завяршалася стральчатай аркай і служыла для штодзённага карыстання; большая шыр. каля 4,5 м і выш. да 6 м выконвала ролю парадная брамы, адчынялася ў час урачыстасцей. Над яе паўцыркульнай аркай размяшчаўся ляпны картуш з выявай дзярж. герба ВКЛ — «Пагоні». Большы ўваход меў разгрузачную спічастую нішу, прарэзаную ўваходным праёмам меншых памераў. Гэта дазваляе меркаваць пра наяўнасць тут пад'ёмнага моста. Паўд. сцяна замка прарэзана на выш. каля 2 м ад зямлі



**Лідскі замак.** З гравюры 19 ст.



**Лідскі замак.** Рэканструкцыя С. Г. Багласава. 1981.

скразным праёмам з паўцыркульнай аркай — запасным ходам для раптоўных вылазак гарнізона або скрытага выхаду ў крытычныя моманты абароны. Замкавыя і вежавыя муры складзены ў асноўным з палявых камянёў. Вонкавыя паверхні зроблены з вялікіх, часам абчасаных валуноў, добра падабраных адзін да аднаго па памерах і пакладзеных гарызантальнымі радамі. Прамежкі паміж валунамі запоўнены каменнымі асколкамі на вапнавым растворы (цагляныя кліны сустракаюцца вельмі рэдка). Забутоўка паміж «шчокамі» сцен рабілася з дробных камянёў. У якасці арматуры выкарыстоўвалі драўляныя бэлькі. Цэглу ўжывалі толькі для асн. элементаў канструкцыі і архіт. дэталей. З яе выкладзены куты замкавых і вежавых муроў, дэкаратыўныя паясы на фасадах сцен, аркі, скляпенні, сценкі байніц. Цагляныя паясы на знешняй паверхні замкавых сцен выкананы тэхнікай балтыйскай або вендскай муроўкі (чаргаванне 2 лажкоў і тычка). Вапнавы раствор, на якім пакладзена цэгла, утрымліваў дамешкі са жвіру і дробных каменьчыкаў, таўшч. швоў 2—3 см. Выкарыстоўвалі цэглу 2 тыпаў (31×15×10 см і 31×14×7 см), прычым больш тонкую толькі ў аблямоўцы байнічнай сцяны.

На тэр. замкавага двара размяшчаліся праваслаўная царква (у 1533 перанесена ў горад), жылыя і гасп. пабудовы, у т. л. дом каменданта замка, казармы, склады, калодзежы, з 1568 — суд, архіў, турма. Жылыя памяшканні былі на верхніх паверхах вежаў. Л. з. зведаў не адну аблогу. У 1384 пасля штурму яго ўзялі крыжакі і часткова разбурылі. У 1392 атрады нямецкіх і англійскіх рыцараў і войскі іх саюзніка кн. Вітаўта падышлі да замка і аблажылі яго. Гарнізон замка адступіў да Навагрудка. У 1394 англійскія і французскія рыцары зноў напалі на Ліду, але жыхары горада абаранілі замак. 5.4.1406 каля сцен Л. з. з'явіліся атрады смаленскага кн. Юрыя Святаславіча, што ішоў вызваляць з няволі сваю сям'ю, якую годам раней паланіў кн. Вітаўт, калі захапіў Смаленск. Пасля некалькіх марных штурмаў смаляне знялі аблогу. Не авалодала Л. з. у 1433 і войска кн. Свідрыгайлы, які ваяваў з кн. Жыгімонтам Кейстутавічам. У 1396—99 замак стаў прытулкам для выгнанніка з Залатой Арды хана Тахтамыша, а ў 1434—43 — для хана-выгнанніка Даўлет Хаджы-Гірэя. У 1506 да Ліды дайшлі загоны крымскіх татар, аднак штурмаваць замак яны не рызыкнулі. Восенню 1655 Ліду занялі казакі І. Залатарэнкі. У час вайнаў паміж Рэччу Паспалітай і Маскоўскай дзяржавай 30-тысячнае рус. войска кн. І. А. Хаванскага ўлетку 1659 захапіла Л. з. штурмам. У час Паўн. вайны 1700—21 моцна пашкоджаны замак быў разбураны ў 1702 і 1710 (паводле інш. звестак, у 1706) шведскімі войскамі Карла XII, якія ўзарвалі яго вежы. Апошняя бітва, сведкамі якой былі сцены Л. з., адбылася паміж паўстанцамі Т. Касцюшкі, што заселі ў руінах замка, і царскімі войскамі. Археал. даследаванні Л. з. праводзілі М. А. Ткачоў (1970), А. А. Трусаў (1977—78, 1980, 1985), А. К. Краўцэвіч (1986—87). Ускрыта каля 3260 $м^2$ пл. замкавага двара. Культурны пласт таўшч. 0,4—0,8 м у цэнтры двара і каля 2 м паблізу паўн. сцяны. Мае рыхлую, камкаватую структуру, дрэнна захоўвае прадметы арганічнага і неарганічнага паходжання. У ім знойдзена многа металічных вырабаў, а таксама шклянога, керамічнага сталовага і кухоннага посуду, у т. л. рынкі, латкі, гаршкі, збаны, глякі, цёрлы, куфлі, чаркі, кубкі, талеркі і інш., пакрытыя зялёнай палівай або тэракотавыя. Трапляюцца зах.-еўрап. керамічныя вырабы. Сабрана вял. калекцыя гаршковай (14—16 ст.) і каробчатай кафлі з вонкавымі пласцінамі, аздобленымі раслінным, геам. і сюжэтным арнаментам. Большасць кафлі пакрыта зялёнай палівай. Сярод металічных вырабаў салдацкія і конскія падковы, нажы, крэсівы, нажніцы, ключы, замкі, наканечнікі стрэл і арбалетныя балты. Знойдзены каменныя ядры ад каменямётаў, вырабы з косці, шмат сярэбраных і медных манет, у т. л. манеты 14 ст. кн. Кейстута і Вітаўта, грошы 14 ст., соліды 17 ст. і інш. У 1-й чвэрці 20 ст. зроблена частковая кансервацыя Л. з., у 1982— поўная. Вядзецца работа па рэстаўрацыі сцен і вежаў замка.

*Літ.*: 95, 1200, 1214, 1217.

*М. А. Ткачоў, А. А. Трусаў.*

**ЛІДСКІ КРАЯЗНАЎЧЫ МУЗЕЙ.** Адкрыты ў 1959 у г. Ліда. Размешчаны ў будынку б. Іосіфаўскага касцёла. У археал. калекцыі 17,5 тыс. знаходак (1991) са стаянак і селішчаў Лідскага р-на, з раскопак у *Лідскім замку.* У экспазіцыі крамянёвыя прылады працы (праколкі, скрабкі, адшчэпы), каменныя сякеры, вырабы з металу (замкі, нажы, цвікі, шпоры, падковы), зброя (арбалетныя стрэлы 14—15 ст., каменныя ядры, кінжал, корд — кароткі меч 15 ст. з клеймамі г. Пасаў), фрагменты керамічнага посуду, у т. л. патэльні-латкі з полымі ручкамі на трох ножках, фрагменты кафлі, дахоўка паўцыркульная 14—17 ст., касцяны грэбень 14 ст., керамічная паходная чарнільніца 17 ст., фрагменты рэйнскага посуду 17 ст. У нумізматычнай калекцыі 3,2 тыс. манет у асноўным Рускай дзяржавы, Рэчы Паспалітай, ВКЛ, а таксама турэцкая манета 14 ст., кітайскія сярэбраны юань, залаты дукат Галандыі 18 ст.

*І. Ф. Цімашэўскі.*

**ЛІК НА ЛІНІЯХ,** спосаб лічэння з дапамогаю *жэтонаў лічыльных* на разлінаванай на некалькі гарызантальных радкоў паверхні, падзеленай вертыкальнымі рысамі (для аднімання, дзялення і перамнажэння). Вядомы на тэр. Беларусі ў 15—пач. 17 ст.



**Лік на лініях.** Нямецкая гравюра 16 ст.

У стараж.-рус. пісьмовых крыніцах вядомы як «лічэнне касцьмі», «лічэнне пенязямі». У аснову Л. н. л. пакладзены пяцерычны прынцып лічэння, які вядзецца (у адрозненне ад падобных сістэм падліку антычнага свету і краін Усходу) знізу ўверх. Першая (ніжняя) лінія адпавядала адзінкам 1—4, інтэрвал паміж 1-й і 2-й лініямі (шпацыя) адпавядаў 5 адзінкам, 2-я лінія — дзесяткам 1—4 і г. д. На скрыжаванні 4-й, 7-й і інш. ліній з вертыкальнай рысай ставіўся крыж, які пазначаў лінію тысяч, мільёнаў і г. д. Пры складанні ў левай палавіне разлінаванага поля выкладаліся абедзве лічбы, што складаліся, у правай — сума. На адніманні і дзяленні разлінаваная паверхня дзялілася вертыкальнымі лініямі на 3 часткі, у сярэднім полі змяшчалі аднімаемае і дзялімае. 2 лічбы, якія перамнажаліся, змяшчалі на 2 палях злева, вынік перамнажэння — на полі справа.

*Літ.*: 1614, 1648а.

*І. І. Сінчук.*

**ЛІКАВАЯ СІСТЭМА,** структура іерархічных адзінак ліку — разрадаў (парадкаў) у грашовым абарачэнні.

Найб. вядомыя Л. с. дзесяткавая, дванаццацірычная, шасцідзесяцірычная, лік саракамі. Напр., у *капе* — 60 *грошаў*, у грошы — 10 *пенязяў*. Гл. таксама *Грашова-лікавая сістэма.*

**ЛІКОЎСКІ МАНЕТНЫ СКАРБ.** Знойдзены ў в. Лікоўка Гродзенскага р-на ў 1954. У гліняным гаршку былі медныя, білонныя і сярэбраныя манеты, з якіх вядома 6468 экз. агульнай масай каля 10 кг.

ВКЛ. Жыгімонт I Стары: Віленскі манетны двор — паўгрош літоўскі 1518. Жыгімонт II Аўгуст: Віленскі манетны двор — траяк 1562, чворак 1569. Рэч Паспалітая. Зыгмунт III Ваза: літоўская чаканка — шэлег 1623, 162... (2 экз.); рыжская чаканка — шылінг 1621, траяк 1592. Ян II Казімір Ваза: літоўская чаканка — шэлег-барацінка 1660, 1661, 1663—66, 166... і са сцёртай датай (3694 экз.); польская (каронная) чаканка — шэлег-барацінка 1660, 1661, 1663—66, 166... і са сцёртай датай (2563 экз.), Быдгашчанскі манетны двор — шастак 1660—66, 166...(23 экз.), Кракаўскі манетны двор — шастак 1657, 1659—64, 1666, 1667, 166... (15 экз.), Львоўскі манетны двор — шастак 1661, 1662 (4 экз.), Пазнанскі манетны двор — шастак 1662 (5 экз.); літоўская або польская чаканка — сцёрты шэлег-барацінка (20 экз.). Ян III Сабескі: польская чаканка, Кракаўскі манетны двор — шастак 1679, 1681—84 (12 экз.). Прусія. Фрыдрых Вільгельм I: манетны двор Кёнігсберг — зэхсгрошэр 1680—84, 1686, 1687 (13 экз.). Шведская Прыбалтыка. Крысціна Аўгуста Ваза: рыжская чаканка — шылінг 1646. Карл X Густаў: лівонская чаканка, Рыжскі манетны двор — шылінг 1655, 165... (2 экз.). Шатландыя. Карл I: манетны двор Эдынбург — торнер недатаваны (паміж 1632 і 1633). Фальшывыя манеты: падробкі пад рыжскі шылінг Зыгмунта III Вазы (1 экз.), літоўскі шэлег-барацінку Яна II Казіміра Вазы (42) 1660, 1666, 166... і з невыразнай датай, польскі шэлег-барацінку Яна II Казіміра Вазы (65) 1664, 1665 і з невыразнай датай.

Адзін з буйных грашовых скарбаў 17 ст. на Беларусі. Ухаваны ў 1686—87.

*Літ.*: 1722. *В. Н. Рабцэвіч.*

**ЛІНГБІ КУЛЬТУРА,** археал. культура эпохі мезаліту (9—8-е тысячагоддзі да н. э.). Была пашырана на тэрыторыі ад паўн. Еўропы да басейна р. Прыпяць. Назву атрымала ад стаянкі Лінгбі на востраве Зеландыя (Данія). Насельніцтва Л. к. займалася паляваннем (паўн. і высакародны алень, лось, дзік і інш.). Найб. характэрныя для Л. к. прылады — рагавыя сякеры і грубыя крамянёвыя наканечнікі дзідаў ці стрэл з шырокай насадкай. Спосабам абівання вырабляліся з нуклеусаў рубячыя прылады, з масіўных пласцін і адшчэпаў — кароткія нажы, скоблі, разцы, падобныя да макралітычных. На ПдЗ Беларусі і ў Літве зрэдку сустракаюцца тыповыя для Л. к. прылады працы (наканечнікі дзідаў і інш.). Стаянкі Л. к. выяўлены каля *Опалі*, вёсак Адрыжын Іванаўскага р-на, Заазер'е Зарэчненскага р-на Ровенскай вобл. Помнікі Л. к. адносяцца пераважна да позналедавіковая або перадбарэальнага перыяду (гл. *Галацэн*).

*Літ.*: 1232. *У. Ф. Ісаенка.*

**ЛІНЕЙНА-СТУЖКАВАЙ КЕРАМІКІ КУЛЬТУРА,** Дунайская культура, археал. культура плямён эпохі неаліту (5—3-е тысячагоддзі да н. э.), якія жылі ў басейне Дуная. У 4500—4000 г. да н. э. распаўсюдзілася ў Зах. і Цэнтр. Еўропе. Больш за 40 помнікаў гэтай культуры вядома на З Валыні (вярхоўі Днястра, Гарыні, Стыра), яе ўплывы і знаходкі сустракаюцца на паўд.-зах. ускраіне Беларусі. Носьбіты гэтай культуры з'яўляліся найстаражытнейшымі земляробамі ў Еўропе, займаліся таксама жывёлагадоўляй. Іх жытлы — паўзямлянкі з вогнішчамі і гасп. ямамі, у зах. частцы арэала — наземныя слупавой канструкцыі. Пахавальны абрад — трупаспаленне (пры рэштках ставіўся посуд з зернем).

Для Л.-с. к. к. характэрны шарападобныя гаршкі з цыліндрычным горлам. Арнаментацыя посуду складалася з ліній пракрэсленых гарызантальна, вертыкальна, вуглямі або дуга- і спіралепадобна, на якія пазней наносіліся ямкі-паглыбленні («нотны арнамент»). Побач са сталовым існаваў кухонны посуд. Яго выраблялі з глінянага цеста з раслііннымі дамешкамі, упрыгожвалі адбіткамі ў выглядзе ямак і пазногцевых адбіткаў, шышкападобнымі выступамі і інш. Крамянёвыя вырабы прадстаўлены нажамі, скрабкамі, пласцінамі для сярпоў, наканечнікамі стрэл, свердламі, каменныя — зерняцёркамі, цёсламі, сякерамі, долатамі. Л.-с. к. к. уплывала на *нёманскую культуру*, садзейнічала распаўсюджанню т. зв. *неалітычнай «рэвалюцыі»*.

*Літ.*: 87, 798. *У. Ф. Ісаенка.*



В. Л. Ліпніцкая

**ЛІПНІЦКАЯ** Вольга Львоўна (н. 7.8.1949, Мінск), беларускі археолаг. Канд. гіст. навук (1988). Скончыла Магілёўскі педагагічны ін-т (1973). З 1979 працуе ў Ін-це гісторыі АН Беларусі (з 1989 навук. супрацоўнік аддзела археалогіі першабытнага грамадства). Вывучае тэхналогію вытворчасці і вытворчую спецыялізацыю насельніцтва каменнага веку на тэр. Беларусі. Даследавала стараж. крэменездабыўныя шахты, крэменеапрацоўчыя шахты і стаянкі-майстэрні ў наваколлі г. п. Краснасельскі Ваўкавыскага р-на. Аналізавала вырабы першаснай апрацоўкі крэменю, культурныя традыцыі мясц. насельніцтва, шляхі распаўсюджання краснасельскага крэменю ў 9—3-м тысячагоддзі да н. э.

*Тв.*: Мезолитическая стоянка Криничная // Краткие сообщения Ин-та археологии АН СССР. М., 1979. № 157; К истории исследования кремнеобрабатывающих мастерских на территории Белоруссии и сопредельной территории // Древности Белоруссии и Литвы. Мн., 1982; Крэменеапрацоўчыя майстэрні эпохі неаліту // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1984. № 4.

*В. Я. Кудрашоў.*

**ЛІПНЯКІ,** гарадзішча *мілаградскай культуры, зарубінецкай культуры* і ранняга сярэднявечча каля в. Ліпнякі Лоеўскага р-на. За 1 км на ПнЗ ад вёскі на пагорку каля р. Брагінка. Пляцоўка прамавугольная з закругленымі вугламі памерам 60×70 м была ўмацавана валам выш. каля 2 м, шыр. да 15 м (разбураны ў 1973 пры правядзенні меліярацыйных работ). Выявіў у 1929 І. Х. Ючанка, абследавалі ў 1955 В. М. Мельнікоўская, у 1957 Л. Д. Побаль, даследавалі ў 1976 М. Ф. Гурын (900 м²), у 1977 М. І. Лашанкоў (200 м²). Культурны пласт да 0,6 м. Выяўлена 57 ям гасп. прызначэння, разнастайных форм і памераў, адна з іх нагадвае рэшткі паўзямлянкавага жытла памерам 5×2,8 м, заглыбленага ў мацярык на 0,2—0.3 м.

Знойдзены фрагменты ляпнога посуду, частка якога арнаментавана па шыйцы, плечуку і тулаве ўціскннямі пазногця або пастаўленай пад вуглом палачкі. Сярод прылад працы крамянёвыя нажы, скобля, пракрутка, рэтушор, жал. наканечнік кап'я, фрагменты 2 нажоў, скоблі, спражка, бронзавыя фрагменты тыгля, бранзалета. Асобную групу знаходак складаюць гліняныя прасліцы біканічнай, шарападобнай і пасудападобнай формы, частка з іх арнаментавана кропкавымі ўціскннямі, рыскамі, лініямі. У паўзямлянцы выяўлены 2 ляпныя гаршкі, падпраўленыя на ганчарным крузе, якія адносяцца да сярэднявечча. Не выключана, што гарадзішча выконвала функцыю сховішча.

*Літ.*: 291. *М. Ф. Гурын.*

**ЛІПСК,** курганны могільнік і камень з выявай каля в. Ліпск Докшыцкага р-на.

Курганны могільнік. За 3 км на У ад вёскі, на правым беразе р. Бярэзіна, ва ўрочышчы Масціца. Мясц. назва Французскія

магілы. Вядомы з 1924. Абследаваў у 1971 А. Р. Мітрафанаў, у 1985 Э. М. Зайкоўскі, у 1989 адзін курган раскапала Л. У. Дучыц. 19 курганоў (дыям. ад 4 да 10 м, выш. 2—2,5 м) у 2—3 рады цягнуцца ўздоўж дарогі. Вакол большасці курганоў ёсць неглыбокія раўкі. Даследаваны курган насыпаны з чорнай зямлі з уключэннем дробных вугольчыкаў. У паўн. частцы насыпу выяўлены 4 камяні сярэдніх памераў, каля асновы, у невял. паглыбленні — каля 10 фрагментаў кальцыніраваных касцей нябожчыка.

Камень з выявай. За 1 км на З ад вёскі. Выявіў у 1985 Зайкоўскі. Мясц. жыхары лічаць, што выява нагадвае воіна на кані.

*Л. У. Дучыц, Э. М. Зайкоўскі.*

**ЛІПСК,** стаянка эпохі ранняга мезаліту каля в. Ліпск Ляхавіцкага р-на. За 2 км на Пд ад вёскі, на краі нізкай правабярэжнай тэрасы р. Шчара. Выявіў у 1986 М. М. Чарняўскі. Даўж. 500 м, шыр. каля 100 м. Культурны пласт у асноўным разараны. Знойдзены масіўныя аднапляцовачныя нуклеусы, высокія канцавыя скрабкі, бакавыя разцы.

**ЛІПСКАЯ КУЛЬТУРА,** археал. культура эпохі верхняга (позняга) палеаліту на Валыні, датуецца познамадленскім перыядам (19—12-е тысячагоддзі да н. э.). Назву атрымала ад групы помнікаў на р. Ліпа каля аднайменнага сяла паблізу г. Дубна Ровенскай вобл. Першыя помнікі выяўлены ў 1908 (Гарадок). Раскопкі ў 1926 праводзіў Л. Савіцкі. Найб. грунтоўныя даследаванні зроблены В. П. Савічам у 1960—63 на стаянках паблізу с. Ліпа і ў 1968—79 на стаянцы Кулычоўка каля г. Крамянец Цярнопальскай вобл.

Знойдзены рэшткі жытлаў, косці мамантa, насарога, тура, зубра, паўн. аленя, каня, пясца і інш., праколка, костка птушкі з насечкамі, косць з антрапаморфнай выявай. Плямёны Л. к. выраблялі крамянёвыя нажы, скрабкі, бакавыя разцы, мікравастрыі і граветы (вузкія пласціны з прытупленым краем), праколкі, масіўныя свердлы і наканечнікі дзідаў, нуклепадобныя сякеры і інш. Пласціны нарыхтоўваліся з чоўнападобных нуклеусаў своеасаблівай формы. Распрацаванная плямёнамі Л. к. крамянёвая вытворчасць існавала ў наступныя эпохі. Л. к. стала вытокам для развіцця больш позняй *свідэрскай культуры*, помнікі якой распаўсюджаны на Пн Валыні і З Беларусі, у басейнах Віслы і Нёмана.

*Літ.:* 844, 1030. *У. Ф. Ісаенка.*

**ЛІСКІ,** група археал. помнікаў каля в. Ліскі Рэчыцкага р-на.

Гарадзішча *мілаградскай культуры.* За 3 км на Пд ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадок, ці Зарэцкі, на ўзвышшы правабярэжнай поймы р. Ведрыч. Пляцоўка трохвугольная, з закругленымі вугламі, умацавана валам выш. каля 2,5 м шыр. 16—18 м, з У — дадатковым валам выш. каля 1 м і шыр. 6—8 м і ровам глыб. 0,5—0,75 м, шыр. 2—4 м. Выявіў у 1976 Г. В. Штыхаў, даследаваў 2620 $м^2$ у 1980—83 М. І. Лашанкоў. Устаноўлена, што першапачаткова вал быў насыпаны на выш. 1,5 м, шыр. 8 м і быў абкладзены бярвёнамі. У выніку рэканструкцыі яго выш. павялічылася да 2,2 м, шыр. да 18 м. Апошняя падсыпка павялічыла вал да 3 м. Культурны пласт у цэнтры 0,3—0,4 м, каля вала 0,6—0,7 м. Выяўлена каля 15 ям гасп. прызначэння глыб. 0,2—0,55 м, дыям. 0,4—0,8 м або памерам 1,25—1,95×0,45—0,75 м. Слупавыя ямы належалі наземным драўляным пабудовам, рэшткі якіх не захаваліся.



Фрагмент нажнога бранзалета з гарадзішча **Ліскі.**



Фібула з гарадзішча **Ліскі.**

Знойдзена больш за 30 тыс. фрагментаў гліняных ляпных гаршкоў 4 тыпаў: з яйцападобным тулавам, круглаватым дном і адагнутым вонкі венчыкам; з шарападобным тулавам і вертыкальным венчыкам; слабапрафіляваныя з круглаватым тулавам і дном, зрэзаным верхам і пазначаным венчыкам; прысадзістыя з круглавата-пляскатым тулавам, закругленым дном і загнутым усярэдзіну краем без пазначанай шыйкі. Частка керамікі па шыйцы арнаментавана скразнымі праколамі, ямкавымі ўцісканнямі палачкі, пальцавымі і пазногцевымі ўцісканнямі і інш. Сярод знаходак — крамянёвыя наканечнік стралы, сякера, вастрыі, праколка, пласціны, нож, укладышы, адшчэпы, рэтушоры, каменныя ступа, таўкачы, сякеры, зерняцёркі; 2 бронзавыя люстэркі; жал. сярпы, касар, абломкі сякер, нажы, іголка, шылы, утулкавы наканечнік стралы, шпількі (посахападобныя, цвікападобныя і з кальцавым навершам), гладкія і арнаментаваныя бранзалеты, пярсцёнкі, завушніцы, 3 пацеркі (са шкла, пасты і гліны), падкованадобная фібула балцкага тыпу, гліняныя прасліцы (ражковыя, пасудападобныя, біканічныя, цыліндрападобныя, канічныя, круглаватыя, шпулепадобныя і інш.), косці свойскіх і дзікіх жывёл. Датуецца 7—3 ст. да н. э.

Курганны могільнік *дрыгавічоў.* За 500 м на Пн ад вёскі, на ўскрайку лесу за чыгуначным пераездам. 27 курганоў выш. 0,4—1,5 м, дыям. 5—11 м. Выявіў і даследаваў 2 насыпы ў 1981 Лашанкоў. У адным кургане знойдзены фрагменты ганчарнай керамікі і попельна-вугальная праслойка, у другім — пахаванне па абраду трупапалажэння на падсыпцы галавой на З. Каля ног нябожчыка выяўлены цвікі, каля галавы — абломкі ганчарнага посуду і пояс, каля рук — 2 бронзавыя кольцы і прамавугольная спражка. Датуецца 11—12 ст.

У вёсцы на левым беразе р. Ведрыч існавала паселішча бронзавага і жал. вякоў і больш позняга часу.

*Літ.:* 653, 693, 698. *М.І. Лашанкоў.*

**ЛІСНА,** курганны могільнік крывічоў каля в. Лісна Верхнядзвінскага р-на. За 1,5 км на Пд ад вёскі. 35 паўсферычных насыпаў выш. 0,3—0,7 м, дыям. 5—6 м. Выявіў у 1930 В. Глацёнак, даследавала 6 курганоў у 1975 З. М. Сяргеева. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў падкурганных ямах, пахаванні адзіночныя і парныя, галавою на З.

Пахавальны інвентар: бронзавыя скроневыя бранзалетападобныя кольцы з завязанымі канцамі, гладкія, вітыя і пласціністыя бранзалеты са штампаваным арнаментам, бронзавы ланцужок, рэшткі шаўковага каўняра з залатым шыццём.

Датуецца 10—12 ст.

*Літ.:* 1086. *Л. У. Дучыц.*

**ЛІСОЎЧЫЦЫ,** курганныя могільнікі каля в. Лісоўчыцы Камянецкага р-на.

Могільнік-1. За 1,6 км на ПдУ ад вёскі, каля хутара, злева ад дарогі на в. Кашчэнікі. 10 насыпаў выш. 0,3—0,5 м, дыям. 4—6 м. Большая частка насыпаў на ўзвышшы, за 50 м на ПдУ ад адзінкавых курганоў каля хутара. Пашкоджаныя ямамі. Некаторыя па контуры абкладзены каменнямі. Вядомы з 1895, абследавала ў 1980, 1985, даследавала ў 1981 два курганы Т. М. Каробушкіна. Пахавальны абрад — трупапалажэнне (у адным з частковым спаленнем) на гарызонце галавой на З, рукі ўздоўж тулава. Знойдзены апалены жал. прадмет, падобны на вастрыё двухшыпнай стралы, каваныя

цвікі (відавочна ад труны). Датуецца 11 ст.

Могільнік-2. За 1,6 км ад вёскі, злева ад дарогі на в. Перкавічы. Захаваліся 2 курганы выш. 0,3—0,6 м, дыям. 4,3 і 5,9 м. Абкладзены камянямі. Даследаваў у 1960 І. В. Біруля. Пахавальны абрад — трупапалажэнне галавой на З. Знойдзены 2 жал. прадметы дугападобнай формы.

Могільнік-3. За 1,1 км на Пд ад вёскі, ва ўрочышчы Пяцічна гара. 4 насыпы выш. 0,2—0,3 м, дыям. 4—6 м. Раней былі абкладзены камянямі, папсаваны землянымі работамі. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.*: 584. *Т. М. Каробушкіна.*

**ЛІТВА́,** 1) назва племяннога саюзу, пазней гісторыка-геаграфічнай і этнаграфічнай вобласці на ПнЗ сучаснай тэр. Беларусі і ПдУ сучаснай Літвы. Упершыню згадваецца ў Кведлінбургскіх аналах пад 1009, ва ўсх.-слав. летапісах — пад 1040. У «Аповесці мінулых гадоў» Л. пералічваецца сярод тых плямён і народаў, якія плацілі даніну Русі. Этымалогія тэрміна канчаткова не высветлена.

У позніх бел.-літ. летапісах даецца міфалагічна-легендарнае тлумачэнне паходжання тэрміна ад лацінскіх слоў «літус туба» (літус — бераг, туба — труба), якімі нібыта называлі панёманскія землі рымляне, якія паводле легенды перасяліліся сюды з Італіі. Польскія храністы 15—18 ст. выводзілі тэрмін Л. ад трансфармацыі слоў Італія — Літалія — Літуанія — Літуа — Літва (Я. Длугаш, Мацей з Мехава) ці ад імя аднаго з правадыроў рымлян — Літаона (М. Бельскі). Сучасныя даследчыкі звязваюць назву Л. з балцкімі ці слав. каранямі lieta, lieti (ліць, цячы), з назвай рачулкі Лietаўка альбо Лietава (прыток Віліі), з кельцкім словам Litawia (прыбярэжная краіна), з бел. дыялектным лютвін (люты) і інш. У апошні час пісьменнікам І. Ласковым зроблена спроба растлумачыць назву і мову насельніцтва летапіснай Л., зыходзячы з лексікі комі-пярмяцкай мовы. Першапачатковая лакалізацыя тапоніма Л. не вызначана. Многія археолагі і гісторыкі (Р. К. Валкайтэ-Куліксаўскене, В. В. Сядоў, У. Ц. Пашута, Г. Лаўмянскі і інш.) звязваюць Л. 11 ст. з археал. культурай усх.-літ. курганоў, арэал якой ахоплівае тэр. ад сярэдняга цячэння р. Нёман і р. Швянтоі да Свіры і Маладзечна. Паводле летапісных даных 12—13 ст. і пазнейшай тапаніміі М. І. Ермаловіч лакалізуе летапісную Л. каля Мінска на У, Навагрудка на З, Маладзечна на Пн і Ляхавіч на Пд. Магчыма, што балцкае насельніцтва летапіснай Л., захаваўшы язычніцтва, у 13—14 ст. падлягала асіміляцыі ўсх. славянамі. Так, у «Жыціі трох віленскіх (літоўскіх) пакутнікаў», нібыта замучаных у 1347 за пераход у праваслаўе, даюцца першапачатковыя язычніцкія імёны гэтых «ліцвінаў», славянскія па характары — Кумец, Круглец і Няжыла. Таму ўсх. мяжа Л. як гіст. вобласці не абавязкова павінна супадаць з этнічнай мяжой балтаў (з літ. этнічнай мяжой у сучасным разуменні). Пасля ўтварэння ВКЛ арэал назвы Л. змяніўся. Паводле пісьмовых крыніц 15—17 ст., у якіх згадваюцца землі ВКЛ (Л., Белая Русь, Панізоўе, Палессе, Падляшша, Жмудзь), можна прасачыць межы Л. Мяжа Л. са Жмуддзю праходзіла па р. Нявежы, мяжа Л. з Белай Руссю — паміж Браславам і Дзіснай, на Пд, магчыма, ішла па ўсх. беразе воз. Шо, далей па р. Бярэзіна, ніжэй Барысава паварочвала на ПдЗ (тут да «Русі» ці «Беларускай Русі» адносілі паўд.-зах. частку сучасных Барысаўскага і левабярэжную частку Бярэзінскага р-наў), пасля ішла на Пд ад Слуцка і Капыля. Мяжа з Палессем праходзіла каля сучасных Ляхавіч, Баранавіч, Косава, Бярозы (паміж Ружанамі і Пружанамі). У некаторых дакументах літоўскімі называюцца гарады Камянец і Бярэсце (магчыма, на ўвазе маецца дзярж. прыналежнасць). У крыніцах 16—18 ст. вызначаюцца таксама паняцці «Л. Павілейская» (ад Віліі да Нёмана) і «Л. Завілейская» (паміж Віліяй і Зах. Дзвіной). У ранейшыя часы ў межах арэала Л. ці па суседству вылучаліся Аўкштайтыя, Дзяволтва, Нальшчаны, Булевічы і Рушкавічы. Пасля Люблінскай уніі 1569 Л., ці літоўскімі землямі, называлі тэр. Віленскага, Трокскага, Навагародскага, Берасцейскага і часткова Менскага ваяводстваў (гэтыя землі часта называлі літоўскімі ваяводствамі і Палессем), з канца 18 ст.— Віленскую, Ковенскую, Гродзенскую і часткова Мінскую губ. У 19—20 ст. у сувязі з фарміраваннем нацый і ростам нац. самасвядомасці беларусаў і літоўцаў, назва Л. замацавалася выключна за тэр. сучаснай Літоўскай Рэспублікі, а на астатняю тэр. гістарычнай Л. пашыралася назва Беларусь.

2) Скарочаная назва ВКЛ (поўная афіцыйная назва — Вялікае княства Літоўскае, Жамойцкае, Новагародскае і Рускае; з 15 ст. Вялікае княства Літоўскае, Рускае, Жамойцкае).

*Літ.*: 363, 365, 821, 1248, 1472. *Э. М. Зайкоўскі.*

**ЛІХВА́,** працэнт за грашовую пазыку або аддадзеную пад заклад маёмасць, выдадзены ліхвяру. У бел. пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца пад 1388, у 16 ст. замяняецца словамі «навезка» і «гасцінец».



**Ліцейная форма** 12 ст. Гродна.

**ЛІЦВІ́Н,** гл. ў арт. *Юравічы.*

**ЛІЦВІ́НАВІЦКІ МАНЕ́ТНЫ СКАРБ,** памылковая назва ў нумізматычнай літаратуры *Касаляцкага манетнага скарбу.*

**ЛІЦЕ́ЙНЫЯ ФО́РМЫ,** прыстасаванні для адліўкі вырабаў з каляровых, пазней чорных металаў. Выкарыстоўваліся для адліўкі падвесак, скроневых кольцаў, пярсцёнкаў, бранзалетаў, крыжыкаў, гузікаў і інш. вырабаў *ліццём.*

На Беларусі знойдзены гліняныя Л. ф. на паселішчах *мілаградскай культуры (Гарошкаў, Мохаў, Падгор'е* і інш.). У сярэдзіне 1-га тысячагоддзя н. э. карысталіся і каменнымі формамі *(Прүднікі).* У 9—11 ст. пераважаюць гліняныя формы, выкананыя па васковых мадэлях, з аднабаковай прафіліроўкай. У 11 ст. ўжывалі і пляскатыя двухбаковыя гліняныя формы. У познафеадальны перыяд для атрымання арнаментаваных званоў, гармат выкарыстоўвалі формы складаных канструкцый. Выраблялі Л. ф. з розных парод каменю, вогнетрывалай гліны, зрэдку з дрэва і бронзы. Высокага майстэрства рэзчыка патрабаваў выраб форм з каменю асабліва ў дапасаванні плоскасцей двухбаковых форм. Для адліўкі вырабаў са складанай рэльефнай арнаментацыяй ужывалі 3- і 4-баковыя Л. ф. Для сумяшчэння частак у формах рабіліся адтуліны, у якія ўстаўлялі штыфты. Каменныя формы выкарыстоўвалі для ліцця тэхнікай «навыплеск» (залівалі ў форму і праз 2—3 хвіліны вылівалі незастылую масу вонкі), што дазваляла атрымаць аблегчаныя пустацелыя выявы звяроў, птушак, імітацыі зерні, скані і інш. А. ф. знойдзены пры раскопках у Ваўкавыску, Гродне, Мінску, Навагрудку, Полацку (больш за 20), Тураве і інш. гарадах.

*Літ.*: 326, 848, 991. *М. Ф. Гурын.*

**ЛІЦЦЁ,** працэс атрымання вырабаў (адлівак) шляхам заліўкі расплаўленых матэрыялаў (металаў, горных парод, керамічных сумесей і інш.) ў *ліцейныя формы.*

На Беларусі Л. вядома з часоў бронзавага веку (з сярэдзіны 2-га тысячагоддзя да н. э.). З бронзы, пазней і жалеза адлівалі ўпрыгожанні (спражкі, фібулы), наканечнікі коп'яў, стрэл. У 12 ст. пашырыўся спосаб ліцця ў каменныя ці гліняныя раздымныя формы, падрыхтаваныя на васковай мадэлі. З медзі, бронзы, серабра, радзей з золата адлівалі ўпрыгожанні (бранзалеты, пярсцёнкі, спражкі, амулеты, падвескі ў выглядзе канькоў ці званочкаў), царкоўнае начынне (свяцільні, крыжы, энкалпіёны), дэталі адзення, конскай збруі; са свінцу выраблялі *пячаткі* і *абразкі* з гарэльефнымі сюжэтнымі выявамі. У познафеадальны перыяд адлівалі гарматы, ядры да іх, званы і інш. вырабы. Выкарыстанне каляровых металаў і іх сплаваў, чыгуну, якія добра запаўняюць форму, спрыяла атрыманню высокамастацкіх вырабаў; гарматы аздаблялі рэльефнымі паяскамі, гербамі, выявамі жывёл, анёлаў і інш., званы — раслліннымі гірляндамі, арнаментальнымі надпісамі [напр., гарматы, адлітыя ў Нясвіжы, якія захоўваюцца ў Музеі войска польскага ў Варшаве і музеі артылерыі ў Стакгольме (Швецыя)].

*Літ.*: 1414. *М. Ф. Гурын.*

**ЛІ́ЧБА ВУ́ЗКАЯ,** сістэма пераводу грашовых сум в выглядзе *пеняззя* і *паўгроша польскага* на іх вартасныя эквіваленты, перададзеныя ў лікавым грошы польскім (гл. *Лічба паўгрошкавая).* У бел. пісьмовых крыніцах упамінаецца ў 1510—35.

**ЛІ́ЧБА ДРО́БНАЯ,** сістэма пераводу грашовых сум у выглядзе *пеняззя* або *паўгроша літоўскага* на іх вартасныя эквіваленты, перададзеныя ў лікавым *грошы літоўскім* («за грош па два паўгрошкі, або па дзесяці пеняззяў»). У бел. пісьмовых крыніцах упамінаецца ў 1502, 1503 і 1504.

**ЛІ́ЧБА ЛІТО́ЎСКАЯ,** сістэма пераводу грашовых сум у выглядзе розных наміналаў (ад *паўгроша* да *дуката*) на іх вартасныя эквіваленты, перададзеныя ў рэальным або лікавым *грошы літоўскім.* У бел. пісьмовых крыніцах упамінаецца ў 1507—1721.

**ЛІ́ЧБА ПАЎГРО́ШКАВАЯ,** сістэма пераводу грашовых сум у выглядзе *паўгроша польскага* або *паўгроша літоўскага* на іх вартасныя эквіваленты, перададзеныя ў лікавых *грошы польскім* або *грошы літоўскім.* У бел. пісьмовых крыніцах упамінаецца ў 1511 («капа грошай паўгрошкаў»), 1516 («капа грошай польскіх паўгрошкавай лічбы»), 1529 («капа грошай літоўскай манеты паўгрошкавай лічбы»). Гл. таксама *Лічба вузкая, Лічба шырокая.*

**ЛІ́ЧБА ПО́ЛЬСКАЯ,** л я д с к а я, сістэма пераводу грашовых сум у выглядзе розных наміналаў (ад *паўгроша* да *дуката*) на іх вартасныя эквіваленты, перададзеныя ў рэальным або лікавым *грошы польскім.* У бел. пісьмовых крыніцах упамінаецца ў 1392—1662.

**ЛІ́ЧБА САВІ́ТАЯ** (ад польск. sowita шчодры з ліхвой, празмерна), від грашовага ліку на Беларусі і Украіне ў 17—18 ст. Вызначаў памеры *наддачы* пры выплаце сум не ў паўнавартаснай (залатой, сярэбранай), а разменнай (білоннай, меднай) манеце.

*Літ.*: 1545.

**ЛІ́ЧБА ШЫРО́КАЯ,** сістэма пераводу грашовых сум у выглядзе розных *наміналаў* на іх вартасныя эквіваленты, перададзеныя ў лікавых *грошы пражскім* або *грошы літоўскім.* У бел. пісьмовых крыніцах упамінаецца ў 1505—64. Гл. таксама *Лічба паўгрошкавая.*

**ЛІ́ЧЫЦЫ,** стаянка эпохі мезаліту каля в. Лічыцы Ваўкавыскага р-на. На паўд. ускраіне вёскі, на невял. выступе правабярэжнай тэрасы р. Рось. Выявіў і даследаваў у 1984—85 М. М. Чарняўскі (ускрыта 100 м²). Даўж. стаянкі ўздоўж краю тэрасы 130 м, шыр. 60 м. Культурны слой таўшч. да 0,5 м.

Знойдзены аднапляцовачныя нуклеусы, ланцэтападобныя вастрыі, псеўдаразцы, рэтушаваныя адшчэпы і пласцінкі. Рэчы, выяўленыя на стаянцы, маюць некаторыя рысы *яніславіцкай культуры.* Выяўлены і больш позні комплекс рэчаў *шнуравой керамікі культуры* з тыповымі для яе крамянёвымі вырабамі і керамікай, у т. л. фрагменты пасудзін з гафрыраваным каўнерыкам. У сярэднявеччы стаянка пашкоджана могільнікам.

Датуецца 8—6-м тысячагоддзямі да н. э. *М. М. Чарняўскі.*

**ЛО́ЕЎСКІ ЗА́МАК.** Існаваў у 14—18 ст. на правым беразе Дняпра. Узведзены на месцы стараж. паселішча Лоева гара мілаградскай пары і гарадзішча 11—13 ст. Меў форму паўкруга дыям. каля 125 м, абведзенага земляным валам і ровам, якія ўпіраліся ў стромы бераг ракі. Сляды заплыўшага рова глыб. да 2 м прасочваюцца пад сучаснай гар. забудовай. Л. з. быў абкружаны горадам, таксама ўмацаваным дугападобным валам. З усх. боку, дзе вал адсутнічаў, замак засцерагаўся высокім (каля 20 м) і крутым берагам Дняпра, шыр. якога дасягала тут 400 м. Даследаваў у 1980 М. А. Ткачоў. Культурны пласт на замчышчы захаваўся рэдкімі плямамі на таўшч. 0,5—0,6 м. У 1956 яго рэшткі разам з валам былі скінуты ў раку пры нівеліроўцы тэрыторыі пад будаўніцтва ў Лоеве Дома культуры. На ўсх. і паўд. схілах замка выяўлена ляпная кераміка *мілаградскай культуры,* ганчарная кераміка 11—13 ст., у т. л. і белагліняная кіеўскага тыпу, абмазка з гліны, косці свойскай жывёлы. У сценцы зачышчанай ямы зафіксавана гарэлае хваёвае бервяно дыям. 13—15 см.

Знаходкі даюць падставу меркаваць, што паселішча Лоева гара існавала ўжо ў 11—13 ст. Аднак у пісьмовых крыніцах яно ўпершыню згадваецца ў 1505, калі татарскія загоны перакопскага хана Менглі-Гірэя перапраўляліся цераз Дняпро і дашчэнту спалілі Лоеў. Пад сценамі Л. з. знаходзілася найважнейшая пераправа, т. зв. «Татарскі брод», які адчыняў крымскім татарам шлях углыб Беларусі. Дакументы адзначаюць іх разбуральны маршрут у 1536 і 1538 у напрамку «на Лоеву Гору, на Петриковичи и на Слуцко». Пасля аднаго з разбурэнняў Лоева і замка магнат ВКЛ Леў Сапега «властным накладом своим замок и место на Лоевой Горе на шляху татарском заложил». Фактычна гэта было аднаўленне існаваўшых раней горада і замка. Апісанне ўмацаванняў Лоева не захавалася. Толькі на карце М. Струбіча за 1578 пазначана высокая абарончая вежа. Як і ўсюды ў той час на Беларусі, тут, верагодна, былі традыцыйныя драўляныя вежы і сценыгародні. Паводле карт 17—18 ст., умацаванні Л. з. існавалі да далучэння ўсх. Беларусі да Расійскай імперыі ў 1772.

*Літ.*: 563, 743, 990, 1195.

*М. А. Ткачоў.*

**ЛО́ЕЎСКІЯ АРХЕАЛАГІ́ЧНЫЯ ПО́МНІКІ.**

С е л і ш ч а. За 3—4 км на ПдЗ ад Лоева ва ўрочышчы Папова гара, паміж б. гарадзішчам і курганным могільнікам, на беразе ручая, які выцякае з Мохаўскага возера. Плошча 2 га. Абследаваў у 1890 У. З. Завітневіч. Знойдзены ляпны посуд, аналагічны выяўленаму ў курганах.

К у р г а н н ы м о г і л ь н і к дрыгавічоў. За 4 км на ПнЗ ад Лоева. Налічваў 40 курганоў. Даследаваў 15 курганоў у 1890 Завітневіч. У адным кургане выяўлена пахаванне па абраду трупаспалення, у 14 астатніх — трупапалажэння, выяўлены рэшткі дамавін. Знойдзены пярсцёнкападобнае скроневае кольца, шкляныя залачоныя пацеркі, спражка, нажы, жал. цвікі, верагодна, ад дамавіны, рэшткі керамікі. Датуецца 11 ст.

У пісьмовых крыніцах Лоеў упамінаецца з 15 ст. У 1505 разбураны крымскімі татарамі. З канца 16 ст. мястэчка, крэпасць і цэнтр староства. У 1646 далучаны да Старадубскага пав. Смаленскага ваяводства, у 1660-я г. ў Рэчыцкім пав. Мінскага ваяводства. У час вызваленчай вайны ўкр. і бел. народаў 1648—54 каля Лоева паміж казацкасялянскім войскам ВКЛ адбылася бітва. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) Лоеў у складзе Расійскай імперыі, цэнтр воласці Рэчыцкага пав. Каля Лоева (ва ўрочышчы Папова гара) існавала гарадзішча, тэрыторыя якога забудавана і не вывучана. У 14—18 ст. на правым беразе Дняпра існаваў *Лоеўскі замак.*

*Літ.*: 379, 895. *Г. В. Штыхаў.*

**ЛО́МЫШ,** археал. помнікі ранняга і сярэдняга неаліту каля в. Ломыш Хойніцкага р-на.

П а с е л і ш ч а-1. За 1,5 км на ПдУ ад вёскі, на паўд.-зах. схіле вял. пясчанага ўзгорка. Выш. над поплавам Прыпяці 3—4 м. Выявілі ў 1960 У. Ф. Ісаенка і А. П. Гарчанка, даследаваў у 1961—63 і 1973 Ісаенка. Культурны пласт 0,1—0,2 м, прасочаны на працягу каля 400 м. Знойдзены 42 крамянёвыя прылады працы, 220 апрацаваных крамянёў, 140 фрагментаў 8—9 ляпных гаршкоў.

П а с е л і ш ч а-2. За 2 км на ПдУ ад вёскі, на пясчаным астанцы тэрасы, што з З абмежаваны поплавам р. Прыпяці. Выявіў у 1962 і даследаваў у 1963 і 1972 Ісаенка. Культурны пласт працягласцю 90 м. Знойдзена 49 крамянёвых прылад працы, 250 апрацаваных крамянёў, 110 абломкаў 7—8 неалітычных гаршкоў.

*Літ.*: 460. *У. Ф. Ісаенка.*

**ЛОСК,** замчышча на паўд.-ўсх. ускраіне в. Лоск Валожынскага р-на, на прыродным узвышшы, паміж рэкамі Казлоўка і Верасоўка (прытокі Бярэзіны). Мясц. назва Замчышча, Замак. Яго пляцоўка авальная, памер 75×160 м, выш. 12—15 м, схілы замкавай гары апляплі. Абследавалі ў 1956 Л. В. Аляксееў, у 1985 Я. Г. Зверуга, раскопкі праводзілі ў 1987 З. С. Пазняк і М. М. Чарняўскі, у 1988—89 Пазняк і Г. М. Сагановіч, у 1990 Сагановіч. Даследавана каля 400 м². Культурны пласт 1—2 м.

У перадмацерыковым пласце знойдзены фрагменты ляпнога посуду *штрыхаванай керамікі культуры*. Вышэй залягаюць раннесярэдневяковыя напластаванні. Знойдзены рэшткі гаршкоў (ёсць донцы са свастыкай), шматлікія жал. вырабы, асабліва цыліндрычныя замкі, кавалачкі керамічных плітак падлогі (11—13 ст). Сабрана больш за 100 фрагментаў featured рознакаляровых шкляных бранзалетаў кіеўскай і візантыйскай вытворчасці (гладкіх, гранёных і вітых), шкляныя пярсцёнкі і пацеркі, блізкія да візантыйскіх тыпаў, загатоўкі і пацеркі з бурштыну, самшытавыя грабеньчыкі, шмат шыферных праслиц і кавалкі амфар, сярэбраныя нацельныя крыжыкі, касцяныя вырабы. Загатоўкі і абрэзкі косці і рога сведчаць пра наяўнасць касцярэзнай вытворчасці. У познасярэдневяковых пластах выяўлены кухонны і сталовы посуд 14—17 ст. (у большасці непаліваныя гаршкі, міскі, макотры, рынкі, збаны і інш.), фрагменты кафлі (з зялёнай палівай і паліхромныя), жал. вырабы (нажы, шпоры і інш. рыштунак конніка), рэшткі рэйнскай каменнай вазы, багаты астэалагічны матэрыял — рогі тураў, аленяў, ласёў, іклы дзікоў і інш. Бліжэй да вала выяўлены груды рознапамерных камянёў. У пласце 12—13 ст. ускрыты рэшткі драўляных пабудоў — спаленыя і струхлелыя зрубы хат.

*Літ.*: 1439, 1473. *Г. М. Сагановіч.*

**ЛО́ТАВАЯ ПРО́БА** (ад лац. lotus частка, доля), проба, якая паказвае колькаснае ўтрыманне чыстага серабра ў лігатурным сплаве манеты (гл. *Лігатура*) у лотах. У аснову пробы, прынятай на манетных дварах Рэчы Паспалітай і шэрага краін Зах. Еўропы, пакладзены падзел чыстага металу на 16 вагавых частак (адпавядае прынятаму ў 11 ст. падзелу кёльнскай маркі на 16 лотаў). Часам пазначаецца рымскімі лічбамі ў адрозненне ад залатніковай і каратнай проб (гл. адпаведныя арт.).

Да 1-й чвэрці 16 ст. ў германскіх княствах і нідэрландскіх правінцыях у вызначэнні Л. п. карысталіся квентхенамі ($^1/_4$ лота) і рыхтпфенігамі ($^1/_{16}$ лота), што дазваляла вызначыць пробу да $^1/_{256}$ ($\approx$3,91 *праміле*). Паводле закону Свяшчэннай Рымскай імперыі германскай нацыі 1524 лот падзелены на 18 гранаў (у Рэчы Паспалітай зрэдку сінонімам грана выступаў дэнарый), што павялічыла дакладнасць вызначэння пробы да $^1/_{288}$ ($\approx$3,47 праміле). У пач. 17 ст. ў дакументах манетных двароў Рэчы Паспалітай і Габсбургскай імперыі сустракаецца анархічны падзел лота на 4 квінтэля. У літаратуры 19—пач. 20 ст. пад уплывам выкарыстання залатніковай пробы дробная частка лота перадаецца праз звычайныя дробы, а Л. п.— мяшанымі. Для пераліку ў метрычную пробу ў залежнасці ад ужытых фракцый лота ці формы перадачы пробы неабходна Л. п. перавесці: а) у рыхтпфенігі, падзяліць на 256 і памножыць на 1000 (13 лотаў 3 квінтэля 1 феніг = $13\times16+3\times4+1=221$ феніг: $256\times1000$ 767 праміле); б) у граны, падзяліць на 228 і памножыць на 1000 (12 лотаў 12 гранаў = $12\times18+12=228$ гранаў: $228\times1000\approx792$ праміле); в) мяшаную дроб у няправільную: падзяліць на 16 і памножыць на 1000 (III $^1/_5=^{16}/_5:16\times1000$ 200 праміле).

*Літ.*: 1667, 1712, 1752. *І. І. Сінчук.*

**ЛО́ША**, група археал. помнікаў каля в. Лоша Астравецкага р-на.

К у р г а н н ы   м о г і л ь н і к-1. За 100 м на ПнУ ад вёскі і 300 м ад берага р. Лоша, на ўскрайку лесу. Захаваліся 74 курганы дыям. 5—16 м, выш. да 1,5 м. Ёсць такія, што ледзь узвышаюцца над прылягаючай тэрыторыяй. Вакол большасці насыпаў прасочваюцца кругавыя раўкі з перамычкамі, асобныя па краі абкладзены камянямі, многія пашкоджаны ямамі. У 1892 Ф. В. Пакроўскі раскапаў 4 курганы. У 1933 Г. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіч даследавалі 17 курганоў. Пахавальны абрад — трупаспаленне. На ўзроўні стараж. гарызонту глебы былі пласты вугалю, а ў цэнтры курганоў — грудкі дробных перапаленых касцей і рэчаў, якія пабылі ў агні.

Пахавальны інвентар: вузкалязовая баявая сякера, наканечнікі коп'яў з пяром ланцэтападобнай формы, нажы, іголкі, гліняныя праслiцы, гліняныя пасудзіны, у т. л. слоікавай формы з валікам. Знойдзены разнастайныя бронзавыя ўпрыгожанні: шыйныя грыўні, бранзалеты, пярсцёнкі, скроневыя кольцы і інш.

Могільнік належаў усх.-літ. плямёнам, датуецца канцом 1-га тысячагоддзя н. э.

К у р г а н н ы   м о г і л ь н і к-2. За 1,5 км на ПнЗ ад вёскі, 1 км на З ад могільніка-1, на краі лесу. Захаваўся 21 курган дыям. 6—18 м, выш. 0,5—1,7 м (у канцы 19 ст. іх было каля 30, а раней яшчэ больш). Значная частка насыпаў пашкоджана ямамі. У 1892 Пакроўскі раскапаў адзін курган дыям. 10 м, выш. 0,9 м. На ўзроўні стараж. гарызонту глебы выяўлены пласт чорнай зямлі з вуголлем. Паблізу цэнтра кургана на глыб. 0,35 м знойдзены дробныя абломкі глінянага гаршка. У іншых насыпах мясц. жыхары знаходзілі сякеры, наканечнікі коп'яў, нажы. Помнік належаў усх.-літ. плямёнам, датуецца канцом 1-га тысячагоддзя н. э.

*Літ.*: 917, 1435. *Я. Г. Звяруга.*



Бронзавая літая фігурка чалавека з курганнага могільніка **Лудчыцы.**

**ЛО́ШЫЦКІЯ МО́ГІЛЬНІКІ**, археал. помнікі ў ваколіцах былой в. Лошыца (цяпер у межах Мінска, мікраёна Сярова). Не захаваліся.

К у р г а н н ы   м о г і л ь н і к-1. На Пд ад б. вёскі, за 100—200 м ад Стара-Койданаўскага шляху, на ўзгорку, ва ўрочышчы Замчышча. 12 круглых і адзін падоўжаны насып. Яшчэ адзін круглы курган знаходзіўся на процілеглым баку лагчыны. У канцы 1890-х г. 2 курганы раскапаў Г. Х. Татур.

Знойдзены 2 бронзавыя, відаць, скроневыя кольцы з заходзячымі канцамі, 2 бронзавыя лірападобныя спражкі, паяснoе кольца, жал. пласціна з кручкамі на канцах, фрагменты жал. нажа, залаташкляная цыліндрычная пацерка, кавалак ваўнянага шнура.

К у р г а н н ы   м о г і л ь н і к-2. За 500 м на Пн ад б. вёскі, каля Стара-Койданаўскага шляху. 2 курганы.

К у р г а н н ы   м о г і л ь н і к-3. На Пд ад б. вёскі, у садзе. 13 невял. круглых насыпаў.

*Літ.*: 1022, 1125. *Ю. А. Заяц.*

**ЛУ́ДЧЫЦЫ**, група археал. помнікаў каля в. Лудчыцы Быхаўскага р-на.

С т а я н к а-1 ранняга этапу *грэнскай культуры*. За 2 км на ПдУ ад вёскі, на правым беразе Дняпра, на мысе тэрасападобнай пляцоўкі, утворанай 2 ярамі і размешчанай на выш. 11—12 м над узроўнем вады ў р. Рдзіца (правы прыток Дняпра). Выявіў у 1972 і даследаваў 330 м² у 1972—73, 1988 В. Ф. Капыцін. Культурны пласт 0,3 м, залягаў пад пластом пяску на глыб. 0,5—0,8 м. Выяўлены рэшткі жытла авальнай формы (дыям. да 2,5 м), паглыбленага у мацярык на 0,1—0,2 м. У цэнтры жытла выяўлены скопішча дробнага вуголля, попельныя плямы і прылады працы. За 2 м ад жытла знойдзены рэшткі лінзападобнага ў сячэнні агнішча, дыям. да 0,6 м, таўшч. попельнага пласта да 0,1 м.

Сярод знаходак крамянёвыя пласціны, адшчэпы, нуклеусы, дробныя асколкі і лускавінкі крэменю, тронкавыя наканечнікі стрэл з пяром, скошаным крутой рэтушшу, двухгранныя разцы, канцавыя скрабкі, вастрыі, пласціны са скошаным рэтушаваным канцом. Стаянка з'яўляецца сезонным паляўнічым лагерам з часовым жытлом драўлянай канструкцыі накшталт чума або ярангі.

С т а я н к а-2 эпохі мезаліту. За 2 км на ПнУ ад вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Рдзіца. Выявіў і абследаваў у 1977 Капыцін.

У агаленнях сабраны крамянёвыя

канцавыя і круглаватыя скрабкі, бакавыя і вуглаватыя разцы, вастры, пракалкі, прылады з выемкамі, пласціны і адшчэпы з рэтушшу.

Курганны могільнік 11 ст. За 2 км на Пн ад вёскі, на правым беразе р. Рдзіца, у лесе. 79 насыпаў выш. 0,5—3 м, дыям. 5—15 м. Адкрыў і даследаваў 3 курганы ў 1892 С. Ю. Чалоўскі, абследаваў і раскапаў адзін насып у 1973 Я. Р. Рыер. Пахавальны абрад — трупапаленне на мацерыку галавою на З і пахаванне ў становішчы «седзячы на дошцы», якое, мусіць, належала 25—30-гадовай жанчыне. Пахавальны інвентар: пацеркі, скроневыя кольцы, пярсцёнкі, бранзалеты, бронзавая літая выява чалавека і інш.

Насупраць могільніка, на левым беразе Рдзіцы, і за 1,5 км на ПдУ ад могільніка размяшчаліся 2 селішчы 10—13 і 11—12 ст.

*Літ.*: 565, 567, 967. *В. Ф. Капыцін, Я. Р. Рыер.*

**ЛУ́ЖАСНА,** археал. помнікі каля в. Лужасна Віцебскага р-на.

Гарадзішча. За 500 м на ПдУ ад вёскі, на краі выспы, абкружанай з усіх бакоў балотам (уваход з паўн. боку, праз селішча). Пляцоўка авальная, памер 50×45 м, выш. 15—20 м, умацавана 2 валамі (адзін на краі пляцоўкі, другі на схіле гарадзішча) выш. 4—6 м і равамі. Вядома з 1879. Даследаваў 100 м² у 1972 і 1974 Г. В. Штыхаў. Культурны пласт у цэнтры пляцоўкі 0,6 м, каля краёў 2,5 м. Знойдзены фрагменты ляпнога посуду, 2 жал. сярпы, 3 нажы, бронзавая трапецападобная падвеска з арнаментам, чатырохвугольная бляшка, касцяная праколка, косці жывёл. У 6—8 ст. выкарыстоўвалася як сховішча. Датуецца ранннім жал. векам і 3-й чвэрцю 1-га тысячагоддзя н. э., адносіцца да днепра-дзвінскай і банцараўскай культур.

Селішча. Прымыкае да гарадзішча з Пн. Памер 150×35 м. Даследаваў 196 м² у 1972 і 1974 Штыхаў. Культурны пласт каля 1 м. Выяўлены рэшткі крыху паглыбленага ў грунт жытла (4×5 м) з печчу-каменкай (1×2 м, выш. 0,6 м), каля якой знойдзена шмат ляпной керамікі, гліняны тыгель, 2 гліняныя праслічы, бронзавы пінцэт з шырокімі канцамі, жал. шылападобная прылада з плоскай лапаткай. Датуецца 3-й чвэрцю 1-га тысячагоддзя н. э., адносіцца да банцараўскай культуры.

*Літ.*: 1044, 1355. *Г. В. Штыхаў.*

**ЛУ́ЖЫЦКАЯ КУЛЬТУ́РА,** археал. культура плямён канца бронзавага і ранняга жал. вякоў (15—14 ст. да н. э.), якія жылі на тэр. ад Балтыкі да Дуная, ад р. Шпрэе да Валыні. Назву атрымала ад Лужыцкай вобл. (Германія), дзе ўпершыню выяўлены помнікі Л. к. Насельніцтва займалася земляробствам, жывёлагадоўляй, дапаможны характар мелі рыбалоўства і паляванне. Спачатку жыло на паселішчах у наземных жытлах слупавой або зрубнай канструкцыі, пазней на гарадзішчах у доўгіх жытлах з некалькімі камерамі і агнішчамі. Пахавальны абрад — трупаспаленне на бескурганных могільніках, пахаванні ў урнах і ямах, трапляюцца курганы і пахавальны абрад трупапалажэння. Плямёны выраблялі бронзавыя, з 7—6 ст. да н. э.— жал. прылады працы, зброю, прадметы ўжытку, упрыгожанні, амфарападобны посуд з жалабатым арнаментам. Найб. даследаваны помнік Біскупінскае гарадзішча (Польшча), на ПдЗ Беларусі знаходкі Л. к. ў в. Барысы (Брэсцкі р-н), *Здзітаве*, а таксама каля *Марочна* (Украіна). Некаторыя даследчыкі шукаюць продкаў славян сярод плямён Л. к., яе ўсх. адгалінавання.

*Літ.*: 632. *У. Ф. Ісаенка.*

**ЛУК,** ручная зброя далёкага бою; адна з асноўных прылад палявання і адзін з самых стараж. відаў узбраення. З'явіўся ў эпоху позняга палеаліту, найб. выкарыстоўваўся народамі Усходу, Азіі і Еўропы. Складаўся з пругкага лукавішча і цецівы, якая кідала стралу сілай ад выпроствання сагнутага лукавішча. Даўжыня Л. каменнага веку (з дрэва ці рога) дасягала 150 см, а драўлянай ці трысняговай стралы — 60—80 см. Наканечнікі для стралы рабілі з крэменю, з косці, рога ці дрэва, а з 1-га тысячагоддзя да н. э.— з металу.



Печ-каменка 6—8 ст. з селішча **Лужасна**.



Бронзавыя падвескі з гарадзішча і пінцэт з паселішча **Лужасна**.



Бронзавы бранзалет **лужыцкай культуры.** Вёска Здзітава Бярозаўскага р-на.

У сярэдневяковай Еўропе вядомы Л. двух тыпаў: звычайныя і рэфлексіўныя. Першыя трапілі ў Еўропу ад усх. качэўнікаў, мелі простае драўлянае лукавішча даўж. каля 100 см. Другія вызначаліся большай сілай паражэння, бо на іх драўляную аснову даўж. 140 см наклейвалі рагавыя пласцінкі, стужкі скуры жывёлы і бярозавай кары. У 13 ст. ў Англіі сканструяваны доўгі Л. (180 см), які быў на ўзбраенні пяхоты і меў большую прабівальную сілу, трапнасць і хуткастрэльнасць. На тэр. сярэдневяковай Беларусі, як і ва ўсёй Еўропе, спачатку карысталіся звычайным Л., а з 16 ст.— пераважна рэфлексіўным. У 17 ст. рэфлексіўны Л. выкарыстоўвалі харугвы лёгкай конніцы. Л. лічыўся адным з найб. папулярных і даступных відаў зброі, які па баявых якасцях доўга спаборнічаў з *ручніцамі*. З добрага Л. можна было трапна страляць на адлегласць да 300 м і рабіць да 4—5 стрэлаў у хвіліну. Наканечнікі стрэл, выраблены бел. рамеснікамі, у 16—17 ст. экспартаваліся. Пры археал. даследаваннях бел. гарадоў і замкаў наканечнікі стрэл — звычайныя знаходкі.

*Літ.:* 763, 764, 1428, 1457.

*Г. М. Сагановіч.*

**ЛУКА́-РАЙКАВЕ́ЦКАЯ,** культура тыпу Лукі-Райкавецкай, археал. культура плямён, якія ў 8—10 ст. жылі на тэр. Украіны, Малдовы, Пд Беларусі, у Балгарыі, Румыніі. Назва ад селішча каля в. Райкаў (урочышча Лука) Бярдзічаўскага р-на Жытомірскай вобл., якое даследаваў у 1946—48 украінскі археолаг В. К. Ганчароў. Насельніцтва жыло па берагах рэк на селішчах і гарадзішчах. Пахавальны абрад — трупаспаленне на грунтавых і курганных могільніках.

Кераміка ляпная (таўстасценныя пасудзіны з адагнутымі венчыкамі, аздобленыя па ўсёй паверхні кругавым хвалістым арнаментам) і ганчарная (таўстасценныя гаршкі з адагнутымі венцамі, аздобленымі па ўсёй паверхні кругавым хвалістым і лінейным арнаментам). Культура тыпу Лукі-Райкавецкай склалася на аснове *пражскай культуры* і культуры тыпу *Карчак*, яе пакінулі ўсх. славяне на этапе фарміравання іх дзяржаўнасці ў раннім сярэднявеччы.

На Беларусі да гэтай культуры належаць гарадзішчы і селішчы *Хатомель* і *Струга* (Столінскі р-н), *Гарадзішча* (Пінскі р-н), *Дружба* (Брэсцкі р-н), курганны могільнік Радасць (Камянецкі р-н).

*Літ.:* 244, 641, 999. *В. С. Вяргей.*

**ЛУКО́МЛЬ,** вёска ў Чашніцкім р-не на р. Лукомка. Узнікла ў 9 ст. як крэпасць крывічоў. У 10—13 ст. горад Полацкай зямлі. Упершыню ўпамінаецца ў 1078 у «Павучэнні» Уладзіміра Манамаха пры апісанні паходу на Усяслава Брачыславіча. З 12 ст. цэнтр удзельнага Лукомскага княства. З 14 ст. ў складзе ВКЛ. У 1386 пасля доўгай асады ўзяты Андрэем Полацкім. У 1397 выхадцы з Валыні заснавалі тут Мікалаеўскі манастыр. У Лівонскую вайну разбураны Іванам IV Грозным (1563). У 1658 сяло. У 18—19 ст. мястэчка. Каля Л. выяўлены гарадзішча, селішчы, курганны могільнік.

Гарадзішча. У вёсцы, на правым беразе р. Лукомка, на пагорку выш. 15 м. Памер 63×36 м. Мясц. назва Замак. У 1930 абследаваў А. Дз. Каваленя, у 1956 Л. В. Аляксееў заклаў шурф 1×1 м, у 1966—74 даследаваў Г. В. Штыхаў. Зроблена 7 раскопаў пл. 704 м². Культурны пласт у цэнтры пляцоўкі да 2 м, па баках 5 м. Выяўлены рэшткі некалькіх археал. культур, якія храналагічна змяняюць адна адну: днепрадзвінская (рубеж нашай эры), банцараўская (6—8 ст. н. э.), матэрыялы 9 — пач. 10 ст., якія належалі крывічам, магутны культурны пласт 11—13 ст. з вял. колькасцю знаходак, верхні пласт перыяду ВКЛ.



Касцяны шахматны ферзь з гарадзішча **Лукомль.**



Ляпныя гаршкі з гарадзішча **Лукомль.** 9 ст.

Сярод знаходак вырабы з жалеза (наканечнікі стрэл, пік, пласцінкі панцыра, пінцэт), каляровых металаў (бранзалеты, фрагмент вырабу накшталт плоскага скроневага кольца з доўгіх курганоў і інш. жаночыя ўпрыгожанні), косці (грабяні, праколкі, накладкі), каменю (прасліцы, тачыльныя брускі, крэсівы), са шкла (бранзалеты, каралі), шмат гладкасценнай і штрыхаванай керамікі. Да рэдкіх знаходак належаць касцяная шахматная фігурка ферзя, залатая ажурная пацерка, касцяная шахматная фігурка ферзя, залатая ажурная пацерка, касцяная накладка з выявамі звяроў, фрагмент фаянсавага блюда з люстранай размалёўкай.

Селішча-1. На Пн ад гарадзішча, на правым беразе р. Лукомка. Пл. больш за 3 га. Даследаваў у 1969—70 Штыхаў. Культурны пласт 0,6—1,5 м.

Знойдзены посуд банцараўскай і смаленскіх доўгіх курганоў культур, жаллож (8—9 ст., мае аналагі ў Польшчы, на Украіне, Беларусі), шлакі, цэлыя тыглі для плаўкі каляровых металаў, трапецападобныя падвескі з бронзы, абломкі ліцейных форм, злісткі свінцу, загатоўкі і вырабы з рога і косці, кераміка 10—16 ст.



Залатая ажурная пацерка 12 ст. з гарадзішча **Лукомль.**

Селішча-2. На левым беразе р. Лукомка, насупраць гарадзішча. У 1973—74 даследаваў 244 м² Штыхаў. Культурны пласт 0,5—1 м.

Знойдзены шлакі і вырабы з жалеза, ключ ад накладнога драўлянага замка (10—11 ст.), падковападобная фібула, утульчаты наканечнік стралы, нажы, рэчы з косці (двухбаковы арнаментаваны грэбень, наканечнік стралы), камень (прасліцы, створка ліцейнай формы), ганчарны посуд 10—13 ст.

Курган. За 1 км на З ад вёскі, каля могілак. Выш. 4 м, дыям. 20 м. Мясц. назва Валатоўка. Вядомы з 1873. Абследаваў у 1966 Штыхаў.

Курганны могільнік. За 1 км на ПдУ ад вёскі, ва ўрочышчы Праклятае поле. 6 курганоў выш. 2 м, дыям. 8—10 м. Даследаваў у 1886 Е. Р. Раманаў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне.

Знойдзены вядро, баявыя сякеры, нажы, наканечнікі коп'яў. Датуецца 11 ст. У 1966 Штыхаў раскапаў пахаванне воіна разам з інвентаром (на касцяным дзяржанні нажа выгравіраваны трызубец). Курганы каля Л. сведчаць пра існаванне тут некропаля, у якім хавалі дружыннікаў. Да стараж. гісторыі Л. адносяцца *Стражавіцкія манетна-рэча-*

*вая скарбы* 10—11 ст., схаваныя за 5 км ад Л., верагодна, мясц. гандляром ці рамеснікам.

*Літ.:* 1346, 1359. *Г. В. Штыхаў.*

**ЛУ́МНА,** курганны могільнік усх. славян 11—12 ст. каля в. Лумна Камянецкага р-на. За 300 м на ПнУ ад вёскі, на лузе. Было 7 насыпаў выш. 0,6—1,2 м, дыям. 4—12 м. Абследавалі ў 1965 Ю. У. Кухарэнка, у 1980 Т. М. Каробушкіна, 3 насыпы ў 1972 даследаваў П. Ф. Лысенка. Пахавальны абрад — трупапалажэнне галавой на З. У адным кургане пахаванне адзіночнае, у двух іншых — парныя. Знойдзена шыфернае прасліца, рэшткі вогнішча.



**Лунніцы** з археалагічнага комплексу Тайманава.

У 1976 чатыры курганы, якія асталіся, знішчаны па віне кіраўніцтва калгаса.

**ЛУ́ННІЦА,** металічнае ўпрыгожанне ў выглядзе паўмесяца (завушніцы, нагрудныя падвескі, дэталі галаўнога ўбору). Вядомы многім народам Еўропы і Азіі з канца бронзавага веку. Ва ўсх. славян былі шырока распаўсюджаны ў эпоху Кіеўскай Русі, на тэр. Беларусі сустракаюцца пры раскопках большасці археал. помнікаў таго часу. Адлівалі іх з бронзы ці свінцоваалавяністых сплаваў у каменных ліцейных формах. Паверхню вырабаў упрыгожвалі насечкамі ў выглядзе трохвугольнікаў ці палоскамі несапраўднай зерні. Даследчыкі падзяляюць Л. на малыя (да 2 см), сярэднія (2—4 см), і вялікія (больш за 4 см); па суадносінах паміж сярэдняй лініяй і «рожкамі» — на шыракарогія (канец 10 — пач. 11 ст.), крутарогія (11—12 ст.); замкнёныя (12—13 ст) і крыжападобная Л. знойдзены пры раскопках у Гродне, Віцебску, Бярэсці, Гомелі, Ваўкавыску, Друцку, Заслаўі, Копысі, Мінску і інш. Ліцейныя формы выяўлены ў Віцебску (8 ст.) і Гродне.

*Літ.:* 243, 848 *Т. С. Бубенька.*

**ЛУЦКЕ́ВІЧ** Іван Іванавіч (28.5.1881, Шаўляй, Літва — 20.8.1919), беларускі археолаг, этнограф і грамадскі дзеяч. Вучыўся ў Лібаўскай (Лієпайскай) і Мінскай гімназіях, Маскоўскім археал. ін-це, Пецярбургскім ун-це. У Пецярбургу ўдзельнічаў у стварэнні «Круга беларускай народнай прасветы і культуры» (1902), у выданнях «Калядная пісанка на 1904 год» (1903), «Велікодная пісанка» (1904), выдаў літаратурную спадчыну Я. Лучыны (зб. «Вязанка», 1903). Адзін з арганізатараў Беларускай Сацыялістычнай Грамады. Удзельнічаў у стварэнні Т-ва сяброў навук (1907), Бел. выдавецкага т-ва (1913), навуковага т-ва ў Вільні (1918). Адзін з арганізатараў выдання першых бел. легальных газет «Наша доля» і «Наша ніва», заснавальнік першых бел. пачатковых школ, бел. настаўніцкіх курсаў (1915—16, Вільня), Віленскай бел. гімназіі. У 1916 удзельнічаў у з'ездзе народаў Расіі ў Лазане (Швейцарыя), адзін з аўтараў «Мемарандума прадстаўнікоў Беларусі». Займацца археалогіяй пачаў пад час вучобы ў Лібаўскай гімназіі, калекцыяніраваў старыя манеты і інш. старадаўнія прадметы. У гады вучобы ў Мінскай гімназіі пазнаёміўся з археолагам *Г. Х. Татурам.* Пасля заканчэння археал. ін-та камандзіраваны ў Венскі ун-т, дзе пад кіраўніцтвам праф. В. Ягіча займаўся ў Славянскім семінары. Уваходзіў у склад рэдакцый газет, садзейнічаў публікацыі краязнаўчых і археал. матэрыялаў. У «Нашай ніве» публікаваў свае краязнаўчыя нарысы і фотаздымкі (пад псеўданімам Шчасны); некаторыя яго артыкулы пасля літаратурнай апрацоўкі брата А. Луцкевіча надрукаваны пад псеўданімам Іван Мялешка. Праводзіў пошукі археал. аб'ектаў (напр., выявіў гарадзішча каля в. Краснае Маладзечанскага р-на), разам з В. Ю. Ластоўскім знайшоў у ваколіцах г. Дзісны пярсцёнкі з пячаткамі князёў Усяслава Полацкага і Барыса. Шукаў кітабы. Шырока вядомы як калекцыянер, ініцыятар стварэння *Беларускага музея* ў Вільні, аснову якога склалі ўласныя калекцыі Л. На свае сродкі набыў для музея археал. экспанаты, прадметы матэрыяльнай культуры, нар. мастацтва, старадаўнія кнігі і рукапісы. У 1918 быў адным з арганізатараў выставаў бел. старасветчыны і нар. мастацтва ў Мінску і Вільні.



І. І. Луцкевіч.

*Літ.:* 869. *Э. М. Зайкоўскі.*

**ЛУЧЫ́Н,** група археал. помнікаў каля в. Лучын Рагачоўскага р-на.

П а с е л і ш ч а-1 *верхнедняпроўскай культуры* і *сярэднедняпроўскай культуры.* За 1,5 км на Пд ад вёскі, ва ўсх. частцы пясчанага астанца выш. 3 м у пойме правага берага Дняпра, ва ўрочышчы Барок Сямёнаўскі. Выявіў у 1956 і даследаваў 60 м² у 1957 І. І. Арцёменка. Культурны пласт 0,2 м.

Знойдзены скрабкі, праколкі, адходы крамянёвай вытворчасці, фрагменты ляпнога глінянага посуду, упрыгожанага ямкамі, адбіткамі грэбеня і інш., частка керамікі не арнаментавана.

П а с е л і ш ч а-2 верхнедняпроўскай і сярэднедняпроўскай культур. За 2,5 км на У ад вёскі, на пясчаным узвышшы левага берага Дняпра, на З ад воз. Добрае. Выявіў і даследаваў 80 м² у 1957 Арцёменка.

Знойдзены крамянёвыя скрабкі на адшчэпах, нажы на пласцінках, наканечнікі стрэл (лістападобныя, трохвугольныя з тронкамі, з роўнай асновай і выемкай) і дроцікаў, сякеры, фрагменты ляпных пасудзін (вастрадонных, пласкадонных, акругладонных), упрыгожаных адбіткамі грэбеня, нарэзкамі, уціскаНнямі лінейнага штампа і шнура, узорамі з лапчастых і вусеневых адбіткаў і інш.

П а с е л і ш ч а-3 верхнедняпроўскай і сярэднедняпроўскай культур. За 1 км на Пн ад вёскі, ва ўрочышчы Завалле. Выявіў у 1928 А. Дз. Каваленя, даследаваў 310 м² у 1956—57 Арцёменка. Культурны пласт 0,2—0,5 м.

Выяўлены рэшткі наземнага жытла памерам 3,75 × 3 м з агнішчам у цэнтры, рэшткі 2 вогнішчаў, знойдзены крамянёвыя скрабкі, цёслы, нажы, трохвугольныя наканечнікі стрэл, адходы крамянёвай вытворчасці. Фрагменты ляпнога посуду ўпрыгожаны адбіткамі грэбеня, лінейнага штампа і шнура, нарэзкамі, лапчастымі і ямкавымі ўціскаННямі, з дапамогай якіх утвораны гарызантальныя, вертыкальныя, дыяганальныя і сеткавыя кампазіцыі.

П а с е л і ш ч а-4 верхнедняпроўскай і сярэднедняпроўскай культуры. За 2,5 км на Пн ад вёскі, на правым беразе Дняпра, ва ўрочышчы Іванскае. Выявіў у 1928 Каваленя, даследаваў 124 м² у 1956 Арцёменка. Культурны пласт 0,2 м.

Знойдзены крамянёвыя скрабкі, нажы, адходы крамянёвай вытворчасці, фрагменты ляпнога посуду. Форма і арнаментацыя керамікі аналагічныя знаходкам на папярэдніх помніках.

Паселішча-5 эпохі неаліту і бронзавага веку. За 300 м на Пн ад вусця асушальнага канала, на беразе пратокі Дняпра. Выявіў і абследаваў у 1956 Арцёменка. Знойдзены фрагменты ляпнога посуду і крамянёвыя прылады працы.

Паселішча-6 верхнедняпроўскай і сярэднедняпроўскай культур. За 4 км на Пд ад вёскі, на беразе пратокі Дняпра, ва ўрочышчы Сасонка. Выявіў у 1956, даследаваў 259 м² у 1956—57 Арцёменка. Культурны пласт 0,3 м. Выяўлены рэшткі неалітычнага жытла памерам 3,4×2,4 м, заглыбленага ў мацярык да 0,3 м, з агнішчам у цэнтры. Па перыметры жытла размяшчалася 6 слупоў, якія падтрымлівалі дах.

Знойдзены крамянёвыя скрабкі, нажы, сякеры, наканечнікі стрэл, адходы крамянёвай вытворчасці, больш за 700 фрагментаў ляпнога посуду, упрыгожанага грабеньчатымі адбіткамі, ямкавымі і лапчастымі ўціскаННямі, насечкамі, адбіткамі лінейнага штампа, з дапамогай якіх утвараліся рамбічныя, гарызантальныя, вертыкальныя і інш. кампазіцыі.

Гарадзішча-1 *мілаградскай культуры, зарубінецкай культуры* і эпохі Кіеўскай Русі. На паўн. ускраіне вёскі. Пляцоўка пакатая, памер 120×50 м. З зах., паўд. і паўд.-ўсх. бакоў умацавана падковападобным валам выш. 3 м, шырынёй у аснове 19—20 м. На ПдУ вал мае праход шыр. каля 6,5 м. Абследавалі ў пач. 1890-х г. Е. Р. Раманаў, у 1928 Каваленя, у 1960-я г. В. М. Мельнікоўская, Л. Д. Побаль і П. Ф. Лысенка, у 1976 А. Р. Мітрафанаў. Культурны пласт у цэнтры 0,5—0,6 м, на краі (па беразе Дняпра) 1,2—1,6 м. Знойдзены ляпная кераміка ранняга жал. веку, ганчарная кераміка 11—13 ст., рэшткі шкляных бранзалетаў, вырабы з жалеза і бронзы.

Гарадзішча-2. За 50—70 м на ПнЗ ад вёскі, за глыбокім ярам. Пляцоўка памерам 85×90 м, з У абмежавана высокім (каля 10 м) крутым берагам Дняпра, з Пд — ярам, з З і Пн умацавана валамі і равамі. Выш. ўнутранага вала каля 4,5 м, шыр. ў аснове каля 16 м, выш. вонкавага вала 2,3 м, шыр. ў аснове каля 12 м. Паміж валамі роў глыб. 4,5 м, шыр. каля 17 м.

Селішча мілаградскай і зарубінецкай культур і эпохі Кіеўскай Русі. З зах. боку гарадзішча-1, за валам. Пл. каля 1 га. Культурны пласт каля 0,4 м. Знойдзены фрагменты ляпных і ганчарных гаршкоў.

Курганны могільнік. Побач з гарадзішчам-2. 5 курганоў дыям. 8—10 м, выш. 1—2 м. Паводле звестак Раманава, у 1890 тут было 120 насыпаў, паводле звестак Каваленi, у 1928—50 курганоў.

*Літ.:* 72, 77, 80, 470, 772.

*А. Г. Калечыц, А. Р. Мітрафанаў.*

**ЛЫНТУ́ПЫ**, курганны могільнік, каля г. п. Лынтупы Пастаўскага р-на. За 2,5 км на ПнЗ ад пасёлка, злева ад дарогі ў г. Швянчоніс. 74 насыпы, якія паласой цягнуцца з ПнУ на ПдЗ. Дыяметр курганоў 5—17 м, выш. 0,4—1,7 м. Пераважаюць (55 насыпаў) дыям. 8—12 м. Найб. знаходзяцца ў цэнтр. і паўн.-зах. частках могільніка, найменшыя — у паўд.-ўсх. частцы. Каля большасці насыпаў (65) ёсць кругавыя раўкі з перамычкамі (ад 2 да 8). Значная частка насыпаў пашкоджана ямамі. У канцы 19 ст. некалькі



Сякеры (1, 10), нажы (2—4), наканечнік кап'я (5), прасліцы (6—8, 11, 15), спражкі (9, 12), бранзалеты (13, 14), шыла (16) з курганнага могільніка **Лынтупы**.

курганоў раскапаў мясц. памешчык Даўгяла. У 1894 Ф. В. Пакроўскі даследаваў 5 насыпаў, у 1977 Я. Г. Зверуга — 9. Сярод знойдзеных Даўгялам рэчаў шыйная грыўня з расшыранымі канцамі, 4 бранзалеты (3 плоскія, 1 жалабаты), шырокасярэдзінны спіральны пярсцёнак, 2 утулкавыя наканечнікі коп'яў, 2 вузкалязовыя сякеры, 3 нажы, шыла, чатырохвугольная спражка, 2 гліняныя прасліцы, 2 ляпныя гаршкі. Пахавальны абрад ва ўсіх курганах, даследаваных Пакроўскім і Зверугам,— трупаспаленне па-за межамі кургана. У кургане ад 1 да 3 пахаванняў: на гарызонце, у насыпе і адразу пад дзірваном.

Пахавальны інвентар: наканечнікі коп'яў, вузкалязовыя сякеры, нажы, шылы, гліняныя прасліцы, цэлыя і разбітыя гліняныя пасудзіны (пахавальных урнаў не было). У адным кургане (№ 4, 1894) з трыма пахаваннямі было больш за 60 прадметаў, у т. л. 6 шыйных грыўняў, 16 бранзалетаў, 12 пярсцёнкаў, 5 падвесак-ракавін, 3 арнаментаваныя бляшкі, 4 гліняныя прасліцы.

Курганы належалі балцкаму насельніцтву, адносяцца ад ўсх.-літ. тыпу, датуюцца 10—11 ст.

*Літ.:* 432, 915. *Я. Г. Зверуга.*

**ЛЫ́САЯ ГАРА́**, гл. *Кругліца.*

**ЛЫСЕ́НКА** Пётр Фёдаравіч (н. 16.9.1931, в. Зарачаны Полацкага р-на), беларускі археолаг. Д-р гіст. навук (1988). Скончыў Мінскі пед. ін-т (1953). З 1964 у Ін-це гісторыі АН Беларусі: старшы навук. супрацоўнік, заг. сектара сярэдневяковай археалогіі, з 1988 заг. аддзела археалогіі сярэднявечча. Вывучаў курганы 11—12 ст., старажытныя Тураў, Бярэсце, Пінск, Слуцк, Давыд-Гарадок, Клецк, Рагачоў, Мазыр, іх абарончыя ўмацаванні, планіроўку,



П. Ф. Лысенка.



Прасліцы з гарадзішча **Лысуха.**

забудову, рамёствы, гандаль, структуру гар. гаспадаркі, культ. сувязі, рэканструяваў даследаваныя часткі старажытных Турава, Бярэсця 13 ст., Пінска 15 ст. Зрабіў вывад, што Бярэсце заснавана дрыгавічамі. Упершыню для драўлянай бытавой архітэктуры Стараж. Русі выявіў у Бярэсці жытлы на 12—13 вянкоў з аконнымі праёмамі. Вынікам даследаванняў з'явілася стварэнне *Археалагічнага музея Бярэсце*, у якім на

пл. 1300 м² экспануюцца 2 вымашчаныя дошкамі вуліцы 13 ст., 28 драўляных пабудоў, разнастайныя знаходкі.

*Тв.:* Раскопки городища древнерусского Давид-Городка в 1967 году // Древности Белоруссии. Мн., 1969; Археологические исследования раннефеодальных памятников Туровской земли // Там жа; Дреговичи; Радимичи; Древние города южной Белоруссии // Очерки по археологии Белоруссии. Мн., 1972. Ч. 2; Города Туровской земли. Мн., 1974; Киев и Туровская земля // Киев и западные земли Руси в IX—XIII вв. Мн., 1982; Берестье. Мн., 1985; Горадабудаўніцтва і архітэктура (разам з П. А. Рапапортам) // Гісторыя беларускага мастацтва. Мн., 1987. Т. 1; Открытие Берестья. Мн., 1989; Дреговичи. Мн., 1991.

*Т. М. Каробушкіна.*

**ЛЫСУ́ХА,** гарадзішча *штрыхаванай керамікі культуры* і *банцараўскай культуры* каля в. Лысуха Бярэзінскага р-на. На паўн. ускраіне вёскі, ва ўрочышчы Гарадок, на правым беразе Беразіны, пры ўпадзенні ў яе ручая. Памер 40×35 м, з зах. і паўн. бакоў умацавана валам шыр. 5—6 м, даўж. каля 20 м і ровам. Абследавалі ў 1928 А. Рынейскі, у 1929 І. Р. Калодкін і М. М. Канвісараў, у 1932 К. М. Палікарповіч і А. М. Ляўданскі; у 1963 Л. Д. Побаль заклаў шурф (2×2 м). Культурны пласт 0,3 м. Выяўлена кераміка мілаградскай (паводле Побаля) і зарубінецкай культур, штрыхаваная кераміка і кераміка кіеўскай культуры.

Знойдзены фрагмент бронзавага арнаментаванага бранзалета, сярэбраная спражка, абпаленыя камяні, вугаль, шлакі. У 1979 абследавала Т. С. Бубенька. У 1988—89 раскопкі (96 м²) праводзіла А. У. Ільюцік. Культурны пласт 0,5—1,1 м. Выяўлены гасп. і слупавыя ямы. Знойдзены фрагменты ляпнога посуду мілаградскай культуры (самыя раннія 6—4 ст. да н. э.), рабрыстага посуду культуры штрыхаванай керамікі (1 ст. да н. э.— 1 ст. н. э.), слабапрафіляваных гаршкоў, арнаментаваных штрыхамі (3-я чвэрць 1-га тысячагоддзя н. э.), гліняныя пацеркі, прасліцы, грузікі дзякоўскага тыпу. Некаторыя прасліцы арнаментаваны насечкамі і кропкамі ў розных геам. камбінацыях. Знойдзены таксама вырабы з жалеза (нажы, кавалкі ляза сякер, абломак познулатэнскай фібулы). Гарадзішча існавала з 2-й пал. 1-га тысячагоддзя да н. э. і, магчыма, да 8 ст. н. э.

*Літ.:* 330, 723, 904, 1023.

*А. У. Ільюцік.*

**ЛЬЯ́ЧКА,** гліняная пасудзіна, якая выкарыстоўвалася ў ювелірнай справе для разліўкі расплаўленых каляровых металаў. Узнікла ад *тыгля* з ручкай. Такі тыгель ранняга жал. веку знойдзены на гарадзішчы *Чаплін* (Лоеўскі р-н). З развіццём ювелірнай справы ўдасканалена. Ва ўсх.-слав. гарадах 11—14 ст. сабрана больш за 150 Л. Па форме падзяляюцца на 3 тыпы. Найб. пашыранымі былі лыжкападобныя Л. з закрытым верхам і масіўнай утулкавай ручкай, круглыя або авальныя ў плане (аб'ём 8—10 см³), датуюцца 11 ст., знойдзены на *Віцебскім Верхнім замку* і ў Лукомлі. Другі тып Л.— выцягнутая закрытая пасудзіна (аб'ём 20—25 см³) авальнай формы з дзвюма круглымі адтулінамі і ручкай без утулкі (для запаўнення металам і для зліву). У такіх Л. выраблялі таксама фарбу, у т. л. штучную кінавар, злучаючы ртуць і серу і трымаючы іх на *горне*.

Вядомы па раскопах у Кіеве і Ноўгарадзе. Датуюцца 11—12 ст. Трэці тып — Л. ў форме моцна паглыбленай лыжкі аб'ёмам 14—21 см³ з плаўным пераходам корпуса ў ручку. Верх цалкам або часткова закрыты за кошт адбартоўкі сценак. Знойдзены ў Гродне і Навагрудку. Датуюцца 13—14 ст.



**Льячкі.** 12—13 ст. Гродна.

*Літ.:* 206, 271, 557, 903, 1021, 1346.

*Л. У. Калядзінскі.*

**ЛЮБА́СНА,** курганны могільнік 8—10 ст. каля в. Любасна Верхнядзвінскага р-на. За 1,6 км на ПнУ ад вёскі, на паўн. беразе воз. Белае. 13 паўсферычных і падоўжаных насыпаў вышынёй 1,5—2 м, дыяметрам 5—6 м; 3 з іх размешчаны за 300 м на Пн ад асн. групы. Даследавала 2 курганы ў 1974 З. М. Сяргеева. Пахавальны абрад — трупаспаленне. Знойдзены кальцыніраваныя косці, сляды вогнішча.

*Літ.:* 1092.

**ЛЮБА́ШКІ,** курганны могільнік дрыгавічоў каля в. Любашкі Камянецкага р-на. За 800 м на ПдУ ад вёскі, за 200 м ад дарогі на Ганцавічы, ва ўрочышчы Курганы. Мясц. назва Шведскія магілы. 19 курганоў выш. 0,2—1 м, дыям. 3,8—6 м. Іх падножжа абкладзена камянямі. Абследаваў і раскапаў 2 курганы ў 1962 І. В. Біруля, абследавала ў 1980, 1985, даследавала 10 курганоў у 1988 Т. М. Каробушкіна.

Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў труне на гарызонце ці ў неглыбокіх (да 25 см) падкурганных ямах на пясчана-попельнай падсыпцы. У некаторых пахаваннях знойдзена вуголле. У 8 курганах па адным пахаванні, у 3 — па два, у 1 — тры адначасовыя пахаванні. Усе, за выключэннем жаночага ў парным пахаванні, галавой на З. Нябожчыкаў клалі ў выцягнутым становішчы, рукі на жываце або на грудзях. Знойдзены фрагменты гліняных гаршкоў, адзін цэлы з хвалістым арнаментам, каваныя цвікі, прасліцы з ружовага сланцу, калачападобнае і авальнае крэсівы (адно з іх знаходзілася ў скураным чахле, ад якога захаваліся металічныя заклёпкі), бронзавая ўпрыгожаная зерню бочачкападобная пацерка, 6 свінцова-алавяных драцяных скроневых кольцаў. Датуецца 11—13 ст.

*Літ.:* 641, 910.

*Т. М. Каробушкіна.*

**ЛЮ́БНЫ,** гарадзішча *мілаградскай культуры.* За 500 м на ПдЗ ад г. Гомеля, на правым беразе р. Сож, ва ўрочышчы Шведская гара. Назву атрымала ад б. в. Любны (цяпер у межах Гомеля). Пляцоўка трохвугольная, памеры 102×108 м, была ўмацавана 2 валамі і 3 равамі (захаваўся вал выш. 1,1—1,8 м, шыр. у аснове 12,5 м). Вядома з канца 19 ст., абследавалі ў 1927 К. М. Палікарповіч, у 1936 А. М. Ляўданскі і А. Дз. Каваленя, у 1974 Л. Д. Побаль, даследавалі ў 1925—26, 1929 І. Х. Юшчанка, у 1976—78 У. І. Сычоў, раскапана 289,5 м². Культурны пласт 0,5—0,7 м. Выяўлены рэшткі 2 паўзямлянкавых жытлаў (адно круглае ў плане, другое прамавугольнай формы памерам 1,5×3 м, заглыбленае ў мацярык на 0,7 м), 3 адкрытыя каменныя агнішчы, гасп. ямы круглай, авальнай і прамавугольнай формы глыб. 0,3—0,8 м.

Сярод знаходак — ніжні камень зернецёркі, крамянёвыя лістападобны наканечнік стралы, канцавыя і бакавыя скрабкі на адшчэпах, пласціна з рэтуш-

шу, цясла, долатападобныя прылады, адшчэпы, двухпляцовачныя нуклеусы, жал. посахападобныя шпількі, стрыжні ад шпілек, абломкі ляза нажа і кальца, пласціністая страла з лістападобнай галоўкай і тронкамі у выглядзе ластаўчынага хваста, касцяная праколка і дзяржанне нажа, аздобленае цыркульным арнаментам, бронзавыя пласціністае паўтараабаротнае кольца, шыла, шчыток ад завушніцы, больш за 50 гліняных грузікаў і прасліц (пасудападобныя, біканічныя, шарападобныя, цыліндрычныя, дзякоўскага тыпу, эліпсападобныя, шулападобныя, усечана-канічнай формы). Амаль уся кераміка адносіцца да жалез. веку (акрамя 100 фрагментаў, якія належаць да сярэднедняпроўскай культуры бронзавага веку). Гарадзішча ўзнікла на месцы паселішча эпохі бронзы, датуецца 4—2 ст. да н. э.

*Літ.:* 301, 1390, 1391. *М. І. Лашанкоў.*

**ЛЮБО́НІЧЫ,** курганны могільнік дрыгавічоў каля в. Любонічы Кіраўскага р-на. 153 насыпы выш. 0,4—2,1 м, дыям. 4—8 м, не захаваўся. Вядомы з канца 19 ст. У 1888 М. Мышанкоў даследаваў 19 курганоў, у 1892 У. З. Завітневіч — 17. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце (22), у насыпе (5), у падкурганнай яме (1), пераважна галавой на З; трупаспаленне ў адным насыпе. У 8 знойдзены рэшткі трун, у 5 — збудаванняў зрубнай канструкцыі з 2-схільным дахам — т. зв. «церамкоў».

Выяўлены сярэбраныя буйназярнёныя, сердалікавыя і шкляныя пацеркі, сярэбраныя і бронзавыя скроневыя кольцы, бронзавы медальён, сярэбраны пярсцёнак, ганчарныя гаршкі, жал. нажы, абручы і ручкі ад драўляных вядзёр. Датуецца 10—12 ст.

*Літ.:* 377, 811. *П. Ф. Лысенка.*

**ЛЮ́БЧА,** гарадскі пасёлак у Навагрудскім р-не, на левым беразе Нёмана. За 26 км на ПнУ ад Навагрудка, 118 км ад Гродні, 49 км ад чыг. ст. Наваельня, на лініі Баранавічы — Ліда.

У цэнтры Л. на б. гандлёвай плошчы выяўлены культурны пласт сярэдневяковага мястэчка. Даследаваў у 1983 А. К. Краўцэвіч (пл. 10,5 м²). Культурны пласт да 1,3 м. Магутнасць пласта змяншаецца па меры аддалення ад цэнтра. Найбольш сараж. матэрыялы — венцы непаліваных гаршкоў 15—16 ст. Сярод знаходак вырабы са шкла (бутэлькі, кварты, шкляніцы, чаркі 17—18 ст.), кафля (з выявай гронкі вінаграду, дывановым арнаментам; унікальная знаходка — фрагмент паліхромнай партрэтнай кафлі-медальёна), рэшткі буд. матэрыялаў (цэглы, дахоўкі, вапны).

Першыя пісьмовыя звесткі пра Л. адносяцца да 1499, калі вял. кн. ВКЛ Аляксандр падараваў Любчанскі двор Ф. Храптовічу. Потым Л. належала М. Меляшковічу і Г. Ельмановічу (з 1517), Гаштольдам (з 1528), Кішкам (з 1574), Радзівілам (з 1606). З сярэдзіны 16 ст. ўваходзіла ў склад Навагрудскага пав. У 1590 атрымала магдэбургскае права, пацверджанае ў 1644. У 16 ст. пабудаваны арыянскі збор, які Радзівілы пераўтварылі ў кальвінскі; у канцы 16—1-й пал. 17 ст. ўзведзены *Любчанскі замак.* Развіццю паселішча спрыяла размяшчэнне на беразе Нёмана. У сярэдзіне 17 ст. ў мястэчку 144 двары, мела лінію абароны з 4 брамамі і 2 вежамі, вуліцы Капыльскую, Навагрудскую, Хачыкоўскую, Дзелячыцкую, Рыбацкую. Паводле 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795), Л. ўключана ў склад Расійскай імперыі.

*Літ.:* 607. *А. К. Краўцэвіч.*

**ЛЮБЧА́НСКІ ЗА́МАК.** Існаваў у канцы 16—18 ст. у г. п. *Любча* Навагрудскага р-на. Пабудаваны на высокім левым беразе Нёмана, умацаваным валунамі. Меў форму прамавугольніка (64×87 м), абведзенага з З, Пд і У ровам шыр. каля 30 м і глыб. 7—10 м. Пляцоўка замчышча, падсыпаная, відаць, зямлёй з рова, узнята над наваколлем на 2—2,5 м. Цяпер на паўд.-зах. і паўд.-ўсх. вуглах замчышча захаваліся 2 магутныя мураваныя вежы. Паўд.-зах. вежа-брама мае выгляд куба, які на выш. каля 8 м пераходзіць у 8-кантовую прызму. У аснове вежы закладзены 4-вугольнік (10,15×9,8 м). Вежа мела 4 ярусы бою: на 1-м ярусе было 8 ружэйных, на 2-м і 3-м — адпаведна 12 і 8 гарматных байніц. Пад дахам вежы, на 4-м ярусе, у кожнай з 8 сцен — па 2 байніцы для ружэйнага агню. Па сваёй аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі гэта вежа вельмі блізкая да вежаў *Мірскага замка* і некаторых абарончых вежаў *Віцебскага Верхняга замка.* Па мяшанай гатычна-рэнесанснай муроўцы паўд.-зах. вежу можна датаваць 2-й пал. 16 ст. На гэта ўказвае і знойдзены флюгер-«ветранік» з гербам Радзівілаў і лічбамі «1581». Падмурак вежы складзены з вял. камянёў на вапне і дасягае выш. 3,85 м. Спачатку вежа была, відаць, адзінай у драўляным Л. з., пра што ўскосна сведчаць прасла, якое прымыкае да яе муравана сцяны, і 2-я вуглавая паўд.-ўсх. вежа. Апошняя адрозніваецца сваёй формай, памерамі (8,3×8,3 м) і рэнесанснай муроўкай (чаргаванне суцэльных радоў лажкоў і тычкоў). Яе ўзвялі, верагодна, у пач. 17 ст., паколькі на гербе, які атрымала Любча ў 1644, намаляваны 2 вежы. Як і праезная, яна стаіць на падмурку выш. каля 4 м. У вежы былі 3 ярусы бою: на 1-м ярусе — 4 ружэйныя, на 2-м — 4 гарматныя і на 3-м — 12 ружэйных байніц. Прасла замкавай сцяны паміж вежамі таксама рэнесанснай муроўкі таўшч. каля 1,3 м. На паўн. баку замчышча, панад Нёманам, паміж 2 невял. вежамі стаяў палац. Паводле інвентара Л. з. за 1661, вежы мелі бляшаныя дахі з купаламі, на якіх знаходзіліся флюгеры з гербам Радзівілаў. Паўд.-зах. ўязная вежа запіралася дубовай брамай, перад ёю цераз роў быў пад'ёмны мост. Пад вежай размяшчаліся скарбец і вязніца. На звернутай у бок замкавага падворка сцяне знаходзіўся гадзіннік. Справа ад увахода была кардэгардыя, ва ўсх. частцы замкавай сцяны — фортка, якая выводзіла на 2-і мост. У 1655 Л. з. быў узяты казакамі І. Залатарэнкі. У 18 ст. замак страціў сваё абарончае значэнне. Паводле апісання Л. з. за 1813, тут было толькі 2 вежы, 2 масты злучалі замак з мястэчкам і фальваркам.

*Літ.:* 1200, 1284. *М. А. Ткачоў.*

**ЛЮДВІШЧА́НСКІ МАНЕ́ТНЫ СКАРБ.** Знойдзены на хутары Людвішча Кобрынскага р-на ў 1934. Складаўся з 651 сярэбранай манеты, з якіх вызначаны 609 экз.

**Дэнарый.** Англія (7—8 экз.); Этэльрэд II [979—1016) — манетны двор Гетфард (?) і нявызначаны манетны двор; Канут [1016—35] — манетныя двары Стамфард і нявызначаны; Гаральд I [1035—40] — манетныя двары Лінкольн і Солсберы; Эдуард [1042—66] — манетны двор Гертфард. Ірландыя (1 экз.): Сітрык III [989—1029] — нявызначаны манетны двор. Італія (2 экз.): Генрых II [1039—56] і ананімная чаканка 1024—26 — манетны двор Верона. Германская імперыя (529 экз.); Генрых II [1002—24] — манетны двор Вердэн; архіепіскап Попа [1016—47] — манетны двор Трыр; Конрад II [1024—39], епіскап Рэйнгард [1025—38] — манетны двор Льеж; Генрых II — манетны двор Гюі; Конрад II — манетны двор Мааструхт; ананімная чаканка каля 1020, епіскап Дзітвін [1048—75] — манетны двор Цюэн; епіскап Рейнгард — манетны двор Віэз; граф Балдуін IV [989—1036] або граф Балдуін V [1036—67] — нявызначаны манетны двор Фландрыі; граф Ламберт [994—1015] — манетны двор Брусель; Генрых II, граф Альберт II [1018—64] — манетны двор Намюр; граф Альберт II — манетны двор Дзінан; Генрых III [1039—56] — манетны двор Сель; герцаг Готфрыд I [1012—23], Гацэла I [1023—24] — нявызначаны манетны двор Ніжняй Латарынгіі; ананімная чаканка перад 1040 — нявызначаны манетны двор зах. часткі Ніжняй Латарынгіі; Атон I [936—973], Генрых II, Конрад II, архіепіскап Пілігрым [1021—36], архіепіскап Герман II [1036—56], архіепіскап Ана [1056—76] — манетны двор Кёльн; Генрых III — манетны двор Аахен; Конрад II, Генрых III — манетны двор Дуйсбург; Генрых II — манетны двор Рэмаген; Атон III [983—996], Генрых II, Конрад II, архіепіскап Пілігрым — манетны двор Андэрнах; Генрых II, епіскап Бярнольд [1027—54], епіскап Вільгельм [1054—76] — манетны двор Утрэхт; Генрых II, епіскап Бярнольд — манетны двор Давентар; епіскап Бярнольд, епіскап Вільгельм — манетны двор Гронінген; Генрых II, Конрад II — манетны двор Ціль; граф Бруна III [1038—57] — манетныя двары Болевард, Докюм, Леўвардэн, Ставорэн; граф Дзірк V [1061—90] — манетны двор Лейдэн (?); герцаг Бярнгард II [1011—59], граф Герман [?—1086] — манетны двор Явер; граф Герман [каля 1020—51] — манетны двор Эмдэн; герцаг Готфрыд II [1044—70], архіепіскап Адальберт [1043—66] — манетны двор

Лер; Атон і Адэльгейда — нявызначаны манетны двор; ананімная чаканка — манетны двор Магдэбург; ананімная чаканка сярэдзіны 11 ст.— манетны двор Гітэльдэ; Адэльгейда I [999—1044] — манетны двор Кведлінбург; герцаг Бернгард II — манетныя двары Бардовік, Люнэбург; архіепіскап Гендэлін [1035—45], граф Уда II [1057—82] — манетны двор Штадэ; епіскап Готхард [1022—38] — манетны двор Хільдэсхайм, ананімная чаканка каля 1060—65 — нявызначаны манетны двор Ніжняй Эльбы; ананімная чаканка — нявызначаны манетны двор Ніжняй Саксоніі; Атон III — манетны двор Дортмунд, Аснабрук, Міндэн, Зест; граф Віхман III [967—1014] — манетны двор Урэдэн; архіепіскап Бардо [1031—51], архіепіскап Лупольд [1051—59], ананімная чаканка — манетны двор Эрфурт; Генрых II — манетны двор Вільдунген; ананімная чаканка, епіскап Бруна [1034—45] — манетны двор Вюрцбург; Генрых II, Конрад II, Генрых III, архіепіскап Бардо, архіепіскап Лупольд, ананімная чаканка — манетны двор Майнц; Атон II [973—983] або Атон III, Генрых II, Конрад II, Генрых III, епіскап Арнольд [1044—65] — манетны двор Вормс; ананімная чаканка 1-й пал. 11 ст.— манетны двор Лорш; Атон III або Генрых II, Конрад II, Генрых III, епіскап Конрад [1056—60] — манетны двор Шпейер; Конрад II — манетны двор Страсбург; Конрад II, Генрых III — манетны двор Эслінген; Генрых IV [1056—1106] — манетны двор Цюрых; Атон III, Генрых III, епіскап Румбальд [1051—69] — манетны двор Канстанц; ананімная чаканка — манетны двор Аўгсбург; герцаг Генрых IV [1026—40], герцаг Генрых VII [1053—56] — манетны двор Рэгенсбург. Данія (12 экз.): Канут [1018—35] — манетныя двары Лунд, Роскіле; Гартэкнут [1035—42] — манетныя двары Лунд, Роскіле, Хедэбю, нявызначаны; Свен Эстрыдсан [1047—75] — манетны двор Лунд. Чэхія (2 экз.): Спітыгнеў II [1055—61]. Венгрыя (2 экз.): Стэфан [1000—38], Андрэй [1046—61]. Вендкі (3 экз.). Германія: (36 экз.) нявызначаныя з-за дрэннай захаванасці дэнарыі. *Манетапераймание* дэнарыя часоў Балдуіна IV — манетны двор Сент-Амер, дэнарыя часоў Эбергарда [1047—66],— манетны двор Трыр, дэнарыя сярэдзіны 11 ст.— манетны двор Ксантэн, дэнарыяў манетных двароў Утрэхт, Давентар, Ціль, Кёльн, нявызначаных манетных двароў Германіі 11 ст. і куфіцкага дырхема. *Манетападобная пласцінка* (1 экз.), адпаведная дэнарыю.

Частка нявызначаных манет скарбу зберагаецца ў бібліятэцы Ватыкана. Уханы скарб у 1060—65.

*Літ.:* 1569, 1661. *В. Н. Рабцэвіч.*

**ЛЮ́ЛЬКА,** выраб, прызначаны для курэння тытуню. Лакальная назва піпкі. Звычайна складалася з полай галоўкі (тулава) і цэўкі з гнядзом для цыбука (муштук). На Беларусі вядомы з канца 16 — пач. 17 ст. На пачатку завозіліся з інш. краін (Галандыя, Бельгія, Турцыя). Рабілі Л. з гліны, дрэва, косці, каменю, металу; з керамічных мас (чырвонай, белай гліны, пазней фаянсу, фарфору) у спец. двухчасткавых раздымных формах, выразалі з кавалка гліны ці фармавалі на ганчарным крузе. Былі Л. дымленыя («сівакі»), паліваныя (зялёнага або светла-карычневага колеру), з глянцаванай паверхняй ці аздобленыя геам. і раслінным арнаментам, жанравымі сюжэтамі. Рабіліся Л. і ў выглядзе звяроў ці антрапаморфных выяў. На некаторых Л. трапляюцца клеймы.



**Люлькі** 17—18 ст. з Полацка.

**ЛЮСТЭ́РКІ.** Сярод унікальных археал. знаходак на Беларусі два Л. 7—6 ст. да н. э. з гарадзішча *Ліскі.* Знойдзены М. І. Лашанковым у перадмацерыковым гарызонце культурнага пласта на глыб. 60—75 см. Адліты з алавяна-свінцовай бронзы з высокім утрыманнем вісмуту. Маюць форму дыскаў дыям. адпаведна 8,3 і 10,5 см, таўшч. у цэнтры 0,2 і 0,25 см, па краях 0,08 і 0,1 см. Адносяцца да рэдкага ўсх. тыпу люстэркаў-дыскаў з ручкай-пяцелькай у цэнтры адваротнага боку. Спектральны аналіз бронзы дае пад-



**Люлькі** 17—19 ст. з раскопак у Мінску.

ставу меркаваць, што Л. зроблены скіфамі.

*Літ.:* 649.

**ЛЯЛЕ́ЎШЧЫНА,** гарадзішчы *днепра-дзвінскай культуры* каля в. Лялеўшчына Гарадоцкага р-на.

Г а р а д з і ш ч а - 1 канца 1-га тысячагоддзя да н. э.— 4 ст. н. э. За 2 км на ПдУ ад вёскі, на левым беразе р. Ловаць, каля воз. Сясіта. Мясц. назвы Карлаўка, Лізавеціна гара. Памер 130×100 м, выш. 25 м. Выявіў у 1934 А. М. Ляўданскі, даследаваў у 1963 К. П. Шут, ускрыта 32 м², абследаваў у 1972 Г. В. Штыхаў. Культурны пласт 0,4—0,6 м. Знойдзена гладкасценная слабапрафіляваная кераміка, прасліцы, шлакі і інш.

Г а р а д з і ш ч а - 2. За 3 км на ПдУ ад вёскі, ва ўрочышчы Батаў рог, на зах. беразе воз. Чарняста. Памер 35×30 м, выш. 10 м. Выявіў у 1934 А. М. Ляўданскі, даследаваў у 1963 К. П. Шут, абследаваў у 1972 Г. В. Штыхаў. Культурны пласт 0,3—0,6 м.

Г а р а д з і ш ч а - 3 пачатку 1-га тысячагоддзя н. э. За 3,5 км на ПдУ ад вёскі, на правым беразе р. Ловаць. Мясц. назва Чорная гара. Пляцоўка авальная, выцягнутая з Пд на Пн, памер 40×31 м. выш. 10—12 м. З боку поля захаваліся рэшткі вала. Выявіў у 1934 А. М. Ляўданскі, даследавалі ў 1951 Л. В. Аляксееў (25 м²), у 1972 Г. В. Штыхаў. Знойдзена гладкасценная, штрыхаваная і тэкстыльная кераміка.

*Літ.:* 34. *Г. В. Штыхаў.*

**ЛЯ́МЕЦ,** шчыльны тоўсты матэрыял з валенай воўны. У Кіеўскай Русі выкарыстоўваўся для паходных шатроў, пакрывал, гунек. З яго валялі мужчынскія шапкі з канічным верхам. Кавалкі Л. ў вялікай колькасці знойдзены на Верхнім замку ў Полацку (культурны пласт 13 ст.), дзе, напэўна, яго выраблялі, а таксама ў Віцебску. У Бярэсці выяўлена зробленая з Л. шапка, якая формай нагадвае больш позні бел. шапкі-магеркі. Знаходкі Л. сведчаць пра існаванне шапавальнага рамяства ці промыслу.

*Літ.:* 664, 702. *Г. В. Штыхаў.*

**ЛЯСНА́Я,** курганны могільнік балта-слав. насельніцтва каля в. Лясная Міёрскага р-на. За 2 км на ПнУ ад вёскі, у лесе, на беразе воз. Важа, за 500 м ад хутара Важа. Мясц. назва Французскія магілы, Валатоўкі. Захавалася 32 насыпы круглай і авальнай формы, дыям. 5—14 м. Авальныя курганы выш. 0,5—1 м, памерамі 4×5 м, 7×9 м і інш., размешчаны па лініях З —У і Пн — У. Частка насыпаў мела каменныя абкладкі ці выбрукоўкі на мацерыку. Частка кургаиоў разбурана пры распрацоўцы кар'ера. Абследавалі ў 1930-я г. У. Галубовіч і А. Цэгак-Галубовіч, у 1973 А. Р. Мітрафанаў, у 1981 А. У. Ільюцік, у 1979—80 даследавала 20 курганоў Л. У. Дучыц.

У 10 курганах пахавальны абрад — трупапалажэнне на грунце, у адным — 2 трупапалажэнні на грунце і ў насыпе. Пахавальны інвентар: нажы, серп, крэсіва, бранзалеты (вітыя з 2 драцінак з завязанымі канцамі, з зааморфнымі выявамі), падковападобныя фібулы са спіралепадобнымі канцамі, спіральныя пранізкі, лунніцападобнае скроневае кольца, шкляныя і бурштынавыя пацеркі, ляпная і ганчарная кераміка. У 3 курганах слядоў пахавання не выяўлена, але знойдзены рэчы. У 6 курганах не выяўлена ні пахаванняў, ні рэчаў.



Бронзавыя **люстэркі** з гарадзішча Ліскі.

*Літ.:* 339. *Л. У. Дучыц.*

**ЛЯТО́ХІ** курганны могільнік каля в. Лятохі Віцебскага р-на. У лесе, уздоўж дарогі. 14 курганоў выш. 1,5—2,5 м, дыям. 12—14 м. Адзін курган валападобны, даўж. 70 м, шыр. 1 м, выш. 1,5 м. Каля асновы насыпу глыбокія раўкі. У 1923 два курганы даследаваў А. К. Супінскі.

Выяўлены рэшткі напалавіну спаленага нябожчыка, які ляжаў галавой на ПнУ. У 1965 і 1972 Г. В. Штыхаў раскапаў 3 курганы. Адзін з іх быў пусты, у другім пад насыпам знойдзена пахаванне па абраду трупаспалення. У трэцім, доўгім кургане, пад насыпам выяўлены адзнакі вогнішча і ляпны гаршчок банцараўскай культуры. Вакол кургана даследаваны раўкі. У раўках вакол кургана зафіксавана рытуальнае вогнішча. Датуецца 3-й чвэрцю 1-га тысячагоддзя н. э.

*Літ.:* 1138. *Г. В. Штыхаў.*

**ЛЯЎДА́НСКІ** Аляксандр Мікалаевіч [29.8(10.9).1893, в. Юр'ева Смалявіцкага р-на — 27.8.1937], беларускі археолаг. Скончыў Смаленскае аддзяленне Маскоўскага археал. ін-та (1922), вучыўся ў Смаленскім ун-це (1922—25). Канд. гіст. навук (1934). З 1927 у Мінску: член гіст.-археал. камісіі Інбелкульта, заг. аддзела археалогіі Бел. дзярж. музея. З 1931 вучоны сакратар, заг. секцыі археалогіі Ін-та гісторыі АН БССР, адначасова дацэнт БДУ. Арганізатар першых у БССР навук.-археал. экспедыцый. Зрабіў класіфікацыю гарадзішчаў жал. веку, вызначыў іх культурна-археал. прыналежнасць і арэалы археал. культур, акрэсліў асн. рысы матэрыяльнай культуры, гаспадаркі і патрыярхальна-радавога ладу плямён, якія жылі на тэр. Беларусі ў жал. веку. Усе археал. помнікі эпохі жалеза на Беларусі разглядаў з пункта погляду стадыяльнага развіцця насельніцтва, якое пакінула гарадзішчы. Першы выказаў думку, што гарадзішчы *штрыхаванай керамікі культуры* ў цэнтр. Беларусі належалі балцкім плямёнам. Даследаваў Віцебск, Оршу, Заслаўе, Барысаў, даў першую і найб. поўную гіст. тапаграфію стараж. Полацка, вывучаў яго помнікі — *Полацкі Сафійскі сабор, Бельчыцкія храмы.* Вывучаў курганы ў Мінскай, Полацкай і Аршанскай акругах. У 1937 па лжывым абвінавачанні арыштаваны і расстраляны ў Мінску. У 1958 рэабілітаваны.

*Тв.:* Археалагічныя раскопкі ў м. Заслаўі Мінскай акругі // Запіскі аддзела гуманітарных навук Белар. Акад. навук. Мн., 1928. Кн. 5. Працы кафедры археалогіі, т. 1; Археалагічныя доследы ў Віцебскай акрузе // Запіскі аддзела гуманітарных навук Белар. Акад. навук. Мн., 1930. Кн. 11. Працы археалагічнай камісіі, т. 2; Археалагічныя доследы ў Полацкай акрузе // Там жа; Археалагічныя доследы ў БССР пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі // Працы секцыі археалогіі Ін-та гісторыі Белар. Акад. навук. Мн., 1932. Т. 3.

*Літ.:* 498, 499, 868.

*Т. М. Каробушкіна.*

**ЛЯЎКІ́,** комплекс археал. помнікаў жал. веку і сярэднявечча каля в. Ляўкі Аршанскага р-на.

Г а р а д з і ш ч а. За 1,5 км на ПдЗ ад вёскі. Пляцоўка чатырохвугольная, выш. 20 м, памер 40×30 м. З трох бакоў пляцоўку абкружае вал выш. да 1 м, з Пд размешчаны роў глыб. да 1 м. Даследаваў 12 м² у 1969 Г. В. Штыхаў. Культурны пласт 0,4 м. Знойдзены ляпны посуд банцараўскай культуры (6—8 ст.) і ганчарная кераміка 13—14 ст.

С е л і ш ч а - 1 эпохі Кіеўскай Русі. За 100 м на Пд ад вёскі. Пл. каля 0,6 га. Выявіў у 1985 А. М. Шынкевіч. Знойдзена ганчарная кераміка. Раскопкі не праводзіліся. Селішча разворваецца.

С е л і ш ч а - 2 эпохі Кіеўскай Русі. На паўн.-зах. ускраіне вёскі, каля дарогі на Копысь. Выявіў у 1985 Шынкевіч. Часткова разбурана кар'ерам. Культурны пласт у агаленні кар'ера 0,4 м, насычаны вуголлем. На глыб. 0,2—0,4 м ад дзённай паверхні знойдзена кераміка. Раскопкі не праводзіліся.

К у р г а н н ы м о г і л ь н і к. За 1,2 км на Пд ад вёскі, у лесе. Выявіў у 1988 Э. Э. Навагонскі. 6 насыпаў паўсферычнай формы выш. 1,5—3 м, дыям. 6—8 м. 1 курган аддалены ад астатніх на 200 м на З.

*В. М. Ляўко.*

**ЛЯЎКО́** Вольга Мікалаеўна (н. 21.5. 1947, в. Астравок Капыльскага р-на), беларускі археолаг. Канд. гіст. навук (1980). Скончыла Бел.

дзярж. ун.-т (1972). З 1970 у Ін-це гісторыі АН Беларусі, з 1983 старшы навук. супрацоўнік. Вывучае помнікі жал. веку і сярэднявечча паўн.-ўсх. Беларусі. Правяла раскопкі стараж. гарадоў (Віцебск, Орша, Гарадок, Талачын), замкаў (Езярышча, Смальяны, Капыль, Шклоў), гарадзішчаў, курганоў, селішчаў у басейнах Дняпра і Зах. Дзвіны. Па матэрыялах раскопак у Віцебску распрацавала класіфікацыю і храналогію рэчавых комплексаў 14—18 ст.

*Тв.:* Витебские изразцы XIV—XVIII вв. Мн., 1981; Витебск XIV—XVIII вв. Мн., 1984; Экскурсия по древнему Витебску. Мн., 1984; Торговые связи Витебска в X—XVIII вв. Мн., 1989.


А. М. **Ляўданскі.**


В. М. **Ляўко.**

**ЛЯ́ХАВІЦКІ ЗА́МАК.** Існаваў у 16 — 1-й пал. 17 ст. Пабудаваны ў канцы 16 ст. ў г. Ляхавічы гетманам Янам Хадкевічам замест невял. драўлянага замка. Займаў узвышэнне на левым беразе р. Ведзьма. Меў форму чатырохвугольніка (175×220 м), абкружанага ровам. Падпёртая плацінай р. Ведзьма жывіла вадой абарончы роў. Высокі земляны вал Л. з. ў кожным вугле пераходзіў у вял. бастыён развітай канфігурацыі з бруствермі і байніцамі для стралкоў і артылерыі. Валы і бастыёны былі абмураваны каменем і цэглай. Па цэнтры бастыёнаў зроблены кавальеры — узнятыя над бастыёнамі мураваныя ўмацаванні з ахоўнымі парапетамі, якія па форме паўтаралі канфігурацыю бастыёна. Кавальеры былі высокія, што дазваляла страляць па праціўніку праз бастыён, не баючыся трапіць па сваіх. Кожны бастыён меў сваю назву: «Бульверк ад саду», «Бульверк Рынковы», «Бульверк Водны». Чацвёрты бастыён, на якім не было кавальера, зваўся «Бульверк пусты». На рагу кожнага бастыёна была «каморка патрэбная» ў выглядзе невял. вежачкі, вынесенай над вадой. Пры кожным бастыёне быў каземат, дзе захоўвалі зброю, ядры, порах і розную амуніцыю. Унутры валоў знаходзіліся падземныя мураваныя хады, якія дазвалялі скрытна пераходзіць з бастыёна на бастыён або адседжвацца ў час артабстрэлу. Па драўляным мосце (апошняе звяно было пад'ёмным) на палях, перакінутым цераз даволі шырокі (да 50 м) вадзяны роў, траплялі ў мураваную 4-павярховую браму замка. Ніз яе займаў праезд, злева і справа былі кардэгарды — вартоўні. На 2-м ярусе размяшчаліся механізм пад'ёму моста, які «ўзводзіўся» 2 ланцугамі, і пад'ёмнік ахоўнай жал. засцерагальнай краты — герсы. Яна таксама падымалася ланцугамі. Тут жа былі байніцы для ручной агнястрэльнай зброі. Трэці ярус меў выгляд баявой пляцоўкі, заслоненай парапетам з зубцамі, адкуль прастрэльвалі найбліжэйшыя подступы да брамы. Чацвёрты паверх — фактычна стройная звужаная вежачка, дзе былі гадзіннік, назіральны вартавы пост і «ратны звон», у які званілі ў выпадку небяспекі. Вянчала браму «банька» з жал. «ветранікам» (флюгерам). Насупраць увахода, у глыбіні замкавага дзядзінца, стаяў мураваны 2-павярховы П-падобны ў плане крыты дахоўкай палац. Тарцы 2 паралельных корпусаў заканчваліся 3-яруснымі франтонамі барочных форм, якія звужаліся даверху і завяршаліся стройнымі вільчыкамі. Цэнтральны корпус палаца на абодвух паверхах меў аркадную галерэю. Будынак амаль цалкам быў закрыты ад абстрэлаў высокімі курцінамі-валамі і бастыёнамі. Пад палацам знаходзіліся вялізныя скляпы. На замкавым двары, злева ад уваходнай брамы, стаяў 1-павярховы мураваны арсенал. Справа ад увахода пад 1-павярховай каменнай пабудовай знаходзіўся патаемны ход з замка. Ён меў скляпеністае перакрыцце, ішоў пад ровам і выходзіў у размешчаны паблізу замкавы сад. Тайнік выкарыстоўвалі для раптоўных вылазак гарнізона і ўдараў па праціўніку з тылу. Уздоўж курцін і на дзядзінцы шчыльна месціліся драўляныя будынкі розных службаў і казармаў. Меліся студні. Л. з. адносіўся да адной з мадыфікацый новаітальянскай фартыфікацыйнай сістэмы, пашыранай у Еўропе ў канцы 16 ст. Ён лічыўся самым моцным з падобных збудаванняў не толькі на Беларусі і ў ВКЛ, але і ўсёй Рэчы Паспалітай. Тут часта стаяў наёмны гарнізон, якому дапамагала гар. апалчэнне і навакольная шляхта. Магутнасць Л. з. ў многім абапіралася на яго артылерыю. Не выключана, што асобныя гарматы былі адліты ў Ляхавічах. Артылерыя ў Л. з. была расстаўлена наступным чынам. На «Бульверку ад саду» стаяла адлітая ў 1614 гармата «Кантар» («Спявак») з гербам Хадкевіча і яго тытуламі, якая страляла 18-фунтовымі ядрамі. Тут жа знаходзілася 24-фунтовая гармата «Базілік» («Яшчарка») адліўкі Хадкевіча (1606), а ў казематэ — 18-фунтовая шротаўніца (1603) з гербам і тытулам канцлера Льва Сапегі. Згадваюцца яшчэ 10-фунтовая «Кіт» і «Малпа», адлітыя Хадкевічам у 1617, 2 шведскія гарматы (1559) калібрам 1,5 і 5 фунтаў, нямецкі 12-фунтовы «Фарэнсберг» (1590). Найб. калібр мела 24-фунтовая поўкартаўна «Пярун» (1609) з гербам Хадкевіча. «Бульверк Рынковы» быў узброены 9 гарматамі калібрам ад 3 да 25 фунтаў, якія называліся «Баба», «Нерг», «Цмок», «Сокал», «Самсон» і інш. На «Бульверку Водным» размяшчаліся 18-фунтовыя «Добаш» («Барабаншчык», 1614) і шротаўніца «Ярка» (1603), на кавальеры гэтага бастыёна — 11-фунтовы «Спявак», 5-фунтовы «Воўк», 3 палявыя гарматы калібрам 1,3 і 12 фунтаў і 24-фунтовая гармата «Сальватор» («Збавіцель»). На ёй быў надпіс: «Збавіцель шле табе прывітанне ад нас». На 4-м бастыёне размяшчалася 5 гармат калібрам ад 2 да 18 фунтаў, якія называліся «Пелікан», «Пішчык», «Бурнікель», палявая шведская і маленькая. Такім чынам, на замкавых валах стаяла 31 гармата. У арсенале таксама былі 2 невял. шмыгаўніцы, 51 гакаўніца, мушкеты звычайныя і цяжкія мушкеты-«кабылы», стрэльбы-«янычаркі», больш за 3 тыс. ядраў living калібру, мушкетныя кулі, шрот, а таксама даспехі-«зброі» на 141 чал., 551 шлем-шышак, коп'і і інш.

Самі Ляхавічы, ядро «места», былі абнесены драўляным парканам, каля сцен якога выраслі пасады і слабоды. У часы ваенных ліхалеццяў яны цярпелі болей за ўсё. Зімой 1595—96 замак беспасняхова штурмавалі казацкія загоны С. Налівайкі і М. Шавулы. У час антыфеад. вайны бел. і ўкр. народаў у 1648—54 Ляхавічы тройчы беспаспяхова асаджалі паўстанцы-сяляне і ўкр. казакі. Найб. выпрабаванні для Л. з. прыйшліся на час рус.-польскай вайны 1654—67. У яе разгар (канец жніўня — пач. верасня 1655) войскі царскага ваяводы А. М. Трубяцкога «...заходили к городу Ляховичам, и посады и слободы около Лях́ович пожгли, которых литовских (тутэйшых жыхароў — рэд.) людей застали в посаде и слободах, тех побили и языков поимали». Аднак узяць магутны замак Трубяцкой не змог. Непрыступны Л. з. перажыў чарговую асаду вясной 1660, калі войскі ваяводы І. А. Хаванскага, якія адыходзілі з-пад Брэста, аблажылі горад і замак. Але генеральны штурм замка, які адбыўся 24.5.1660, захлынуўся. У Паўн. вайну 1700—21 пасля амаль паўгадавой аблогі, калі скончыліся харчы і порах, гарнізон з 1360 казакоў пасля працяглага штурму вымушаны быў 9.5.1706 здаць замак шведам. Яны разбурылі ўмацаванні і фарны касцёл. У 1709 замак з рус. гарнізонам двойчы быў у аблозе войск польскага караля Ляшчынскага, якому дапамагаў укр. гетман Мазепа са сваімі казакамі. Потым з Л. з. даводзілася выбіваць самога Мазепу. Сюды ўвайшоў атрад Рыгора Агінскага, падтрыманы 2-тысячным войскам Пятра І. 12 красавіка, пасля кароткага бою з войскам саюзніка Карла XII Аляксандра Сапегі, Агінскі вымушаны быў адступіць. Да 1775 Ляхавічы разам са славутай «фартэцыяй» належалі віленскаму біскупу І. Масальскаму. Сейм Рэчы Паспалітай спец. пастановай 1775 перавёў горад ва ўласнасць дзяржавы, падкрэсліўшы, што «...горад Ляхавічы... здаўна мае фартэцыю, якая можа быць у свой час пры абароне краю ўжыта». Паводле 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) Ляхавічы адышлі да Расійскай імперыі. У гэты час яны належалі графу Сымону Касакоўскаму і ўпаміналіся як цэнтр графства. Горад занапаў і ў канцы 18 ст. ўяўляў сабой мястэчка, жыхары якога — беларусы, яўрэі і татары — займаліся земляробствам, дробным гандлем і рамяством. У мястэчку былі царква, сінагогі, крамы і рамантычныя руіны легендарнага замка. Яго будынкі стаялі без дахаў, сцены ад верху да нізу трэснулі і часткова разваліліся, лесвіцы на 2-і паверх былі разбураны. Замкавыя ўмацаванні руйнаваліся.

У 1986 М. М. Чарняўскі выявіў на Замкавым завулку падмурак таўшч. 1,5 м, складзены з камянёў і буйнапамернай цэглы-пальчаткі, пад домам № 16 на вул. Раганава (б. Замкавая) — мураваныя падзямеллі з крыжападобнымі і паўцыліндрычнымі скляпеннямі, з тоўстымі сценамі, у якіх былі байніцы ніжняга гарматнага бою.

*Літ.:* 18, 258, 746, 1205, 1405, 1505.

*М. А. Ткачоў.*



**МАГІЛЁЎ**, горад, цэнтр Магілёўскай вобл., на р. Дняпро, якая дзеліць горад на 2 часткі. Праз горад працякае р. Дубравенка (правы прыток Дняпра).

Археал. раскопкі ў М. праводзілі Я. М. Рыер (1973), І. М. Чарняўскі (1980—81, 1983, 1985—86), М. А. Ткачоў (1983). У выніку даследаванняў устаноўлена, што сярэдневяковы горад М. развіўся з некалькіх сельскіх паселішчаў 11—13 ст., якія месціліся абапал р. Дубравенка на правым і левым берагах Дняпра. Тэрыторыя М. была заселена ўжо ў ранні жал. веку, аб чым сведчаць штрыхаваная кераміка рубяжа нашай эры, кераміка і матэрыялы банцараўскай культуры 6—8 ст. (гл. *Магілёўскае гарадзішча Змяёўка*). Каля сутокаў Дубравенкі з Дняпром яшчэ ў канцы 19 ст. Е. Р. Раманаў азначаў курганны могільнік з матэрыяламі 11—12 ст. Пра месцазнаходжанне першапачатковага гарадзішча М. існуюць 2 версіі. Згодна адной, ім з'яўляецца гарадзішча Змяёўка на правым беразе Дубравенкі. Аднак тут няма культурнага пласта і матэрыялаў эпохі Кіеўскай Русі, а ганчарная кераміка 11—13 ст. сабрана побач з гарадзішчам, на беразе ракі. Паводле другой версіі, на першапачатковым гарадзішчы М. ў 16—18 ст. размяшчаўся замак. Раскоп пл. 48 $м^2$, закладзены тут у 1983 Ткачовым, абверг і гэтую думку. Культурных напластаванняў раней 16 ст. тут не выяўлена. На глыб. 1,8 м ускрыты рэшткі грунтавога могільніка з пахаваннямі галавой на У. У адным пахаванні знойдзены фрагмент шклянога бранзалета бутэлечнага колеру. Могільнік 12—13 ст. перастаў функцыяніраваць задоўга да пач. 16 ст., а мысападобная пляцоўка над Дняпром і Дубравенкай атрымала назву «Магілы». На ёй, паводле Баркулабаўскага летапісу, быў пастаўлены замак. Пляцоўку колішняга могільніка выраўнавалі метровым пластом гліны, а па краі ўзвялі пясчанагліністы вал. Унутры схіл вала абпалілі да цэглападобнага стану. Рэшткі гэтай канструкцыі дазваляюць графічна рэканструяваць вал выш. 5 м, шыр. у аснове 15—16 м. Пры раскопках замчышча знойдзена паліваная кафля, курыльныя люлькі з белай і чырвонай гліны, шарнірныя нажніцы, фрагменты шкляното посуду з клеймамі, кераміка 16—18 ст., цэгла-пальчатка з падоўжнымі і дыяганальнымі барознамі ($30\times\times16{,}7\times86$ см і $26{,}5\times12{,}2\times4{,}7$ см). Месцазнаходжанне ўмацаванага астрога «места» М. 14—15 ст. невядома. Яно знікла пад гар. забудовай у 17—18 ст. Археал. даследаваннямі ў раёне Гандлёвай пл. ўстаноўлена, што высокае плато ў міжрэччы Дняпра і Дубравенкі засялялася паступова. Самая ранняя кераміка тут датуецца 14 ст. Культурны пласт у раёне вуліцы Першамайскай і Гандлёвай пл. 3,4 м. Пры раскопках у раёне ратушы і купецкіх камяніц знойдзена шмат керамікі 15—17 ст. (гаршкі, збаны, паліваныя пауміскі, кубкі, тэракотавая і паліваная гаршковая кафля з раслліннымі, геральдычнымі і зааморфнымі выявамі, вырабы са шкла і металу); ускрыты рэшткі драўляных маставых 17 ст. Археал. шурфоўка на Падніколлі зафіксавала культурны пласт 1,4—3 м у раёне Нікольскага манастыра. Знойдзены рэшткі драўлянай вулічнай вымасткі, якая вяла да манастыра, рэшткі дома гандляра. У ім на ўзроўні 1-га паверха расчышчаны рэшткі падлогі; выкладзенай з квадратных керамічных плітак, шмат паліванай і паліхромнай кафлі 17—18 ст. На падворі Нікольскага манастыра, дзе культурны пласт складае 1,5—3 м, знойдзена шмат сталовага і кухоннага посуду, пакрытага зялёнай і карычневай палівай, разнастайная кафля, фрагменты бутляў, штофаў, шкляніц, флетаў і чарак 17—18 ст. розных памераў і інш. Культурны пласт на правабярэжжы Дубравенкі захаваўся фрагментарна, плямамі, моцна пашкоджаны ці знішчаны сучаснай гар. забудовай, мае рыхлую камякаватую структуру, сляды пажараў. Выяўлены фрагменты керамікі 17—18 ст., з палівай і без яе, цэглы-пальчаткі, чырвонагліняныя курыльныя люлькі, кафля розных тыпаў, кавальскія вырабы. У 16 ст. пачалося фарміраванне зарэчнага т. зв. Лупалаўскага, ці Траецкага, пасада, дзе культурны пласт дасягае 1,2 м. У 1983 экспедыцыяй Гродзенскага ун-та ў раёне прыватных дамоў ускрыта 20 $м^2$. Знойдзены фрагменты гаршкоў, рэшткі кафляных печак 17—18 ст., вырабы са шкла і жалеза. Сярэдневяковы М. у 16—18 ст. быў абведзены магутнымі абарончымі збудаваннямі (гл. *Магілёўскія гарадскія ўмацаванні*).

Існуе шэраг легенд пра ўзнікненне назвы горада. Адна з іх звязана з імем кн. Льва Данілавіча Могія (Магутны Леў), які ў 1267 пабудаваў замак у сутоках рэк Дубравенкі і Дняпра. Некаторыя даследчыкі лічаць, што назва горада паходзіць ад імя полацкага кн. Льва Уладзіміравіча (Льва Магутнага). Народнае паданне звязвае яе з імем асілка Машэкі, над магілай якога насыпаны курган, названы «Магілай льва». Захавалася назва гары Машэкаўка, дзе цяпер знаходзяцца гар. могілкі. З 14 ст. М. у складзе ВКЛ. У канцы 14 — пач. 15 ст. ва ўладанні каралевы Ядзвігі — жонкі польскага караля і вял. кн. літоўскага Ягайлы. У 1503 падараваны ў пажыццёвае уладанне Алене Іаанаўне — жонцы поль-

скага караля і вял. кн. літоўскага Аляксандра. У 1514 ва ўладанні Ю. Зяновіча. У 1561 атрымаў права на войтаўства (гар. кіраванне), у 1577 поўнае магдэбургскае права і герб: на блакітным полі мураваная вежа з надпісам: «Печать места Могилёвского». У 1661 кароль Ян Казімір даў гораду новы герб: на блакітным полі тры гар. вежы, у сярэдняй — у адчыненай браме рыцар з узнятым мячом, наверсе — коннік (герб «Пагоня»). У час Паўн. вайны 1700—21 у ліпені 1708 М. быў заняты і разрабаваны войскамі Карла XII. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Расійскай імперыі.

*Літ.:* 970, 1190, 1298, 1299, 1300.
*М. А. Ткачоў.*

**МАГІЛЁЎСКАЕ ГАРАДЗІШЧА ЗМЯЁЎКА.** Размешчана ў г. Магілёве на правым беразе р. Дубравенкі, за 1,5 км вышэй упадзення яе ў Дняпро, 15—16 м над узроўнем ракі. Абследаваў у 1905 Е. Р. Раманаў, у 1973 даследаваў 22 м² Я. Р. Рыер. Выяўлена жытло слупавой канструкцыі. Знойдзены 2 масіўныя бранзалеты з патоўшчанымі канцамі 6—8 ст. н. э., фрагменты штрыхаванай керамікі канца 1-га тысячагоддзя да н. э.— пач. 1-га тысячагоддзя н. э. і ганчарнага посуду 11—13 ст.

*Літ.:* 970.
*Я. Р. Рыер.*

**«МАГІЛЁЎСКАЯ ДАЎНІНА»** («Могилёвская старина»), зборнік дакументаў і артыкулаў па гісторыі, археалогіі і этнаграфіі Магілёўшчыны, перадрукаваных з неафіцыйнай часткі *«Могилёвских губернских ведомостей»* за 1898—1903. Выдадзены ў 3 выпусках (1900—03) пад рэдакцыяй Е. Р. *Раманава.*

У «М. д.» змешчаны Баркулабаўскі летапіс (вып. 1), «Апісанне Крычаўскага графства 1786 года» А. Меера (вып. 2), карта Магілёўскага намесніцтва 1786, дакументы і артыкулы па гісторыі Магілёва, Оршы, Быхава, Крычава і інш. населеных пунктаў, агляды архіўных фондаў па гісторыі Магілёўшчыны, каштоўны этнаграфічны матэрыял. Змешчаны паказальнік прац і асобныя працы Раманава: «Раскопка ў маёнтку Чырчына», «Археалагічныя знаходкі», «Манетны скарб 1648...» (вып. 1), «Пробная раскопка ў Брусневічах Магілёўскага павета 15—16 ліпеня 1900 г.» (вып. 2), «Дзве археалагічныя разведкі» (вып. 3) і інш.

*Літ.:* 1029.
*У. У. Багамольнікаў.*

**МАГІЛЁЎСКАЯ РАТУША.** Існавала ў 17—18 ст. у Магілёве. Пабудавана ў 1679—81 на Гандлёвай пл. (цяпер Савецкая) пад кіраўніцтвам мясц. майстра Фескі. Будынак прамавугольны ў плане (28×10,5 м). У 1682 побач з ім майстар з Быхава Крузберг узвёў вежу на выш. 26 м, якая нечакана абвалілася. У 1692—98 дойлід Ігнат з арцеллю пабудаваў новую 38-метровую вежу. У канцы 17 ст. ратуша ўяўляла сабой двухпавярховы мураваны атынкаваны будынак з высокай васьміграннай вежай пасярэдзіне фасада. Мела 2 ўваходы з ганкамі (нізкім і высокім). Вежу аздабляў балкон з металічнай агароджай і, магчыма, гадзіннік. Стромкі дах быў накрыты чырвонай дахоўкай і аздоблены пазалочанымі флюгерамі на франтоне ратушы, дахах ганкаў і вежавым шпілі.

З матэрыялаў магілёўскага магістрата і археал. раскопак вядома, што на 1-м паверсе знаходзіліся сені, вял. «ізба», дзе адбываўся войтаўскі суд, канцылярыя і памяшканне «ратушная святліца» для захавання бягучых спраў магістрата. На 2-м паверсе размяшчаліся сені, судовая «ізба», дзе праходзілі магістрацкія суды, вял. зала для пасяджэнняў магістрата і некалькі дапаможных памяшканняў. У цокальным паверсе былі скарбніца, склады і турма. Памяшканні ацяпляліся печамі, аздобленымі тэракотавай зялёнай паліванай кафляй. Лесвіцы 1-га паверха



Бранзалет з патоўшчанымі канцамі з **Магілёўскага гарадзішча Змяёўка.**



Падмуркі і рэшткі сцен **Магілёўскай ратушы.**

былі ўпрыгожаны разнымі драўлянымі балясінамі, вокны мелі алавяныя рамы з круглымі шыбамі, падлога выслана спец. цэглай. Пабеленыя сцены былі ўпрыгожаны абразамі, партрэтамі каралёў, харугвамі цэхаў. У 1773 ратушу перабудавалі, архітэктура фасада стала адпавядаць архітэктуры іншых грамадскіх будынкаў, узведзеных у стылі класіцызму — шырокі гарызантальны пояс, што падзяляў паверхі, рустоўка ніжняга паверха, дэкаратыўныя ліштвы. У 1957 будынак ратушы знесены. Раскопкі праводзілі ў 1979 А. А. Трусаў, у 1984 І. М. Чарняўскі. Выяўлены падмуркі і рэшткі сцен з тонкай (5—5,6 см) цэглы-пальчаткі ў тэхніцы муроўкі — рад лажкоў, рад тычкоў. Падмуркі складзены з вял. камянёў і цэглы на вапнавым растворы. Каля гал. фасада прасочваюцца рэшткі параднага цаглянага ганка. Знойдзена кафля с раслінным і геаметрычным арнаментам, паліваныя куфлі з выявай стараж. герба Магілёва, фрагменты шкла 16—19 ст.

*Літ.:* 1218.
*А. А. Трусаў.*

**МАГІЛЁЎСКАЯ СТАЯНКА** *грэнскай культуры* на ўсх. ускраіне г. Магілёва. За 1 км на У ад чыг. моста, на першай надпоймавай тэрасе правага берага Дняпра. Памер 30×170 м. Выявіў у 1897 Е. Р. Раманаў, абследавалі ў 1925 і 1927 К. М. Палікарповіч, у 1975, 1985—86



Кафля з раслінным арнаментам з **Магілёўскай ратушы.**

В. Ф. Капыцін. Раскопам і шурфамі ўскрыта 180 м². Культурны пласт 0,1 м залягаў у пясчаных адкладах на глыб. 0,2—0,6 м.

Знойдзены шматлікія прадукты расшчаплення крэменю (кавалкі, лускавінкі, адшчэпы, пласціны, нуклеусы), прылады працы для апрацоўкі скуры, косці і дрэва (канцавыя, паўкруглыя, двайныя, нуклепадобныя скрабкі, рэтушаваныя, двухгранныя і на зломе загатовак разцы, праколкі, вырабы з выемкай, сякеры і інш.), прылады палявання (тронкавы наканечнік стралы, вастрыі, нажы). Унікальная знаходкі пласцінак з прытупленым краем. Вышэй па цячэнні Дняпра ва ўрочышчы Гарадшчызна Раманаў выявіў стаянку эпохі неаліту, селішча жал. веку і ранняга сярэднявечча, якія знішчаны ў выніку распрацоўкі кар'ера.

*Літ.:* 564, 579, 865.
*В. Ф. Капыцін.*

**МАГІЛЁЎСКІ АБЛАСНЫ КРАЯЗНАЎЧЫ МУЗЕЙ.** Заснаваны на базе *Магілёўскага царкоўна-археалагічнага музея* і Магілёўскага музея (1867—1919). Адкрыты 31.1. 1919 як губернскі музей. Напярэдадні Вял. Айчыннай вайны зберагаліся экспанаты вял. культурна-гіст. каштоўнасці: крыж Ефрасінні Полацкай (12 ст.), калекцыі бел. рука-

пісных кніг і грамат (175 адзінак), зброі 10—14 ст. (280), манет (18 тыс.), абразоў 13—18 ст. (150), фарфоравых вырабаў 14—18 ст. (170), карціны рус. (І. Айвазоўскага, І. Рэпіна, В. Сярова) і бел. мастакоў і інш. Разрабаваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Адноўлены ў 1950. Захоўваецца каля 100 тыс. археал. знаходак з раскопак мезалітычных паселішчаў *Баркалабава, Бароўка, Горкі, Лудчыцы, Янава*, селішчаў, гарадзішчаў, могільнікаў на тэр. Магілёўшчыны: Абідня, *Вецъ, Княжыцы, Курганне, Нікадзімава, Тайманава, Эсьмоны*, знаходкі з раскопак *Магілёўскага замка, Магілёўскай ратушы*, Мсціслаўскага дзядзінца «Замкавая Гара», Мсціслаўскага пасада. У ліку знаходак каменныя свідраваныя і дзяржанневыя сякеры, наканечнікі стрэл і коп'яў, прылады працы з крэменю (разцы, скрабкі, сякеры) і жал. вырабы (нажы, сякеры, шылы, шпоры, спражкі, замкі, ключы і інш.), ляпны посуд, гліняныя прасліцы, упрыгожанні (скроневыя кольцы, бранзавыя і шкляныя бранзалеты, пярсцёнкі, падвескі, шкляныя і бурштынавыя пацеркі, пальчатыя фібулы). Захоўваюцца рэшткі касцей маманта, інш. прадстаўнікоў верхнепалеалітычнай фауны, берасцяная грамата 13 ст., калекцыі крыжоў 11—17 ст., зброі 14—19 ст., шматлікія фрагменты ганчарнага посуду, кафля і інш. У нумізматычнай калекцыі каля 30 тыс. манет Рус. дзяржавы, ВКЛ, Рэчы Паспалітай, Сілезіі, Прусіі і інш. *А. А. Седзін.*

**МАГІЛЁЎСКІ ЗА́МАК.** Існаваў у 16—19 ст. Размяшчаўся на мысе высокага правага берага Дняпра, паблізу р. Дубравенка. Дзядзінец замка меў блізкую да чатырохвугольніка форму (пл. больш за 1 га). З захаду пляцоўка дзядзінца ўзвышалася на 20 м над далінай Дубравенкі, з Пд — на 25 м над далінай Дняпра, з У выш. схілу дасягала 14 м. З Пн была ўмацавана шырокім і глыбокім ровам. Замак пабудаваны ў 1526 на месцы бескурганнага могільніка 12—13 ст., паверхня якога спачатку была выраўнавана пластом гліны. Па перыметры пляцоўку ўмацоўваў магутны вал з ярка-чырвонай гліны і буйназярністага пяску, які для трываласці абпалілі да цэглападобнага стану. Вал знівеліраваны ў пач. 19 ст. (захаваўся на выш. 1,2 м). У наш час на падставе археал. раскопак (М. А. Ткачоў, 1982) вал рэканструюецца выш. да 5 м і шыр. больш за 16 м. Раскопкі пацвярджаюць звесткі Баркулабаўскага летапісу пра заснаванне М. з.: «Лета 1526 большой замок зароблен и принято много горы Могилы на которой теперь замок Могилев стоит». Ад назвы гэтай гары, як сведчыць летапіс, і атрымаў сваю назву замак. У 16 ст. М. з. меў драўляныя ўмацаванні зрубнай канструкцыі, якія рамантаваліся і даглядаліся. Па традыцыі замак ахоўваўся ўначы «клікунамі» і вартай, меў цэйхгауз для агнястрэльнай і халоднай зброі, розны ваенны рыштунак, за якім сачылі пушкары і замкавыя рамеснікі.

У ваенны час жыхары Магілёва і воласці абаранялі замак, а ў «схаваннях» — гароднях замкавых умацаванняў — размяшчаліся іх сем'і са сваім скарбам. У перыяд казацка-сялянскага паўстання пад кіраўніцтвам С. Налівайкі М. з. спалены 13.12.1595, аднак даволі хутка адноўлены, пра што сведчыць інвентар Магілёва за 1604. Замкавыя ўмацаванні складаліся з 7 вежаў і 2—3-ярусных гародняў, пастаўленых на высокім земляным вале. Цераз абарончы роў праходзіў «перакоп», які аддзяляў замак ад горада, быў перакінуты драўляны мост на палях. Яго апошні пад'ёмны пралёт — «узвод на ланцугах» — падводзіў да 5-яруснай «Горнай брамы». Астатнія 6 вежаў былі 3—5-ярусныя, а другая брама — «Дольная» — мела 4 ярусы. З боку замка да Дняпра і Дубравенкі вялі 2 патаемныя хады. Сцены гародняў і вежаў таўшч. у 1—2—3 бервяны, з боку поля іх рабілі больш магутнымі і звычайна абмазвалі глінай. У 1633 замак згарэў, але праз 2 гады адноўлены 2 брамы і сцены ў выглядзе 1—2-раднага частаколу. У час рус.-польскай вайны 1654—67 з 6 лютага да 1 мая 1655 М. з. вытрымаў аблогу гетманскіх войск. У сувязі з падкопамі замкавы вал моцна пацярпеў. У 1655—60 замак аднавілі і рэканструявалі: з трох бакоў пабудавалі бастыёны, на дзядзінцы — разнастайныя гасп. пабудовы (згарэлі ў час пажару 1664, пазней адноўлены, зноў згарэлі 8.9.1708). Бастыённыя ўмацаванні замка ў пач. 19 ст. знівеліраваны.

*Літ.:* 925, 926, 1282. *М. А. Ткачоў.*

**МАГІЛЁЎСКІ ЦАРКО́ЎНА-АРХЕАЛАГІ́ЧНЫ МУЗЕ́Й.** Існаваў у 1897—1918. Заснаваны Е. Р. *Раманавым.* Размяшчаўся ў будынку б. бернардзінскага кляштара. Пл. экспазіцыі 140 м$^2$, больш за 6 тыс. экспанатаў, атрыманых у асноўным з рызніц царкоўных кладовак, з археал. раскопак, у т. л. раскопак, праведзеных Раманавым: каменныя і жал. прылады працы, фрагменты ганчарнага посуду, розныя ўпрыгожанні, манеты і інш. Сярод экспанатаў: абразы 16—18 ст. маскоўскага, смаленскага, стараабраднага, магілёўскага пісьма (на палатне, дошках, выразаныя з дрэва, медзі, свінцу), некаторыя з іх у абкладах работы магілёўскіх майстроў А. Воўчака і П. Сліжыка; калекцыя крыжоў у асноўным 18 ст., шытая шоўкам і золатам плашчаніца (1566), сярэбраная мітра магілёўскага архіепіскапа Георгія Каніскага (1758), часткі іканастасаў, царскія вароты, скульптурныя выявы святых і інш. У бібліятэчным аддзеле захоўваліся мінея, выдадзеная ў Кракаве ў 1490-я г., шматлікія богаслужэбныя кнігі 16—18 ст. У архіве музея было больш за 4 тыс. дакументаў пераважна 17 ст., у т. л. грамата на магдэбургскае права Магілёву (1577), інвентары горада, замка, воласці (1604) і інш. З 1919 экспанаты музея захоўваюцца ў *Магілёўскім абласным краязнаўчым музеі*, які быў разрабаваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў гады Вял. Айчыннай вайны. *А. А. Седзін.*

**МАГІЛЁЎСКІЯ ГАРАДСКІ́Я ЎМАЦАВА́ННІ.** Існавалі ў Магілёве ў 16—18 ст., уключалі брамы, валы, равы і навальныя канструкцыі. Да атрымання Магілёвам 20.2. 1561 Устаўной граматы караля Жыгімонта II Аўгуста на малое (няпоўнае) магдэбургскае права горад уласных умацаванняў не меў. Цэнтрам яго абароны быў *Магілёўскі замак.* Пасля 1561 гараджане абавязваліся замак і «паркан местской оправовати и перакоп около замку и около паркану местского копати, выправуючы з домов своих к той работе каждый против себе чергою». Ваенна-будаўнічымі працамі кіраваў нова ўтвораны орган гар. самакіравання — «вряд» у асобе войта і 4 сотнікаў. Мяшчане па чарзе, пачынаючы «от дня Благовещенья святое Пречистое», працавалі на фартыфікацыйных работах. «Места», абведзенае «бліжнім валам» даўжынёю 1,5 км, мела спачатку драўляныя сцены — гародні, браму Ветраную і каля 20 вежаў. Абарончы роў існаваў з паўн. і паўд. бакоў. З астатніх бакоў «места» засцерагалася высокімі стромымі схіламі і р. Дняпро і Дубравенка. Па меры росту і развіцця Магілёва за межамі «бліжняга вала» сталі з'яўляцца новыя пасады горада. У межах «бліжняга вала» горад называўся Стары горад, а прадмесці — Новы горад. У 1601—33 усе гэтыя тэрыторыі былі абведзены бастыённымі ўмацаваннямі, пастаўлены новыя і перароблена старая брамы. У Старым горадзе мелася 4 брамы — Алейная, Ветраная, Каралеўская (Шклоўская) і Дубравенская. Новы горад абкружаў Палявы (Дальні, Кругавы) вал, дзе ў розныя часы была розная колькасць брам. У Палявым вале стаяла 8 драўляных брам: Курдзянёўская (Гваздоўка), Лядвееўская, Шклоўская дальняя, Віленская, Уструшненская, Трысненская, Быхаўская, Папінская. У паўн. частцы горада, паміж Шклоўскай і Віленскай брамамі для патрэб абароны быў прыстасаваны млын на плаціне з запруджанай Дубравенкі. Каля 1682 Пакроўскі (Мікольскі) пасад таксама атрымаў земляную фартыфікацыю, вядомую па дакументах як «вал Долны». Тут былі пабудаваны 3 брамы: Машковая, што выводзіла са Старога горада, Выганская, якая адчыняла шлях да моста цераз Дняпро на

Лупалава, і Дзебра насупраць вуліцы Мікольскай. Каля 1688 вусце Дубравенкі і суседнія кварталы былі таксама заслонены валам; тут была пастаўлена Ільінская брама. У 17 ст. сфарміравана яшчэ адна лінія ўмацаванняў Магілёва — Зарэчная, якая засцерагала Лупалаўскае прадмесце. Зарэчная, або Задняпроўская, лінія бастыённай фартыфікацыі мела Чавускую, Прапойскую, Чарнігаўскую і, магчыма, Мсціслаўскую і Аршанскую брамы. У 18 ст. бастыённымі ўмацаваннямі было абаронена і Траецкае прадмесце. Большасць брам горада мела некалькі ярусаў абароны з гарматамі. Адны з іх былі мураваныя (Ветраная, Каралеўская, Алейная, Дубравенская), іншыя — драўляныя. Над брамамі меліся прыгожыя ветранікі-флюгеры ў выглядзе пазалочанай ці пасярэбранай «Пагоні». Над уваходам і выхадам віселі абразы. Па сваёй магутнасці і велічыні М. г. ў. не ведаюць сабе аналогіі ў сярэдневяковай Беларусі. Аднак усе яны былі знішчаны пасля ўключэння Магілёва ў склад Расійскай імперыі.

*Літ.:* 1189. *М. А. Ткачоў.*

**МАГІЛЁЎСКІЯ ГРАМАДЗЯНСКІЯ БУДЫНКІ.** У Магілёве на Савецкай пл. і ў Падміколлі захаваліся рэшткі помнікаў Магілёўскай архітэктурнай школы 17 ст. У 1981 іх даследавала экспедыцыя Спец. навукова-рэстаўрацыйных вытворчых майстэрняў Мін-ва культуры БССР (кіраўнік І. М. Чарняўскі). На Савецкай (б. Гандлёвай) пл. выяўлены цэйхгауз, важніца, купецкія камяніцы, пра якія згадваюць магілёўскія хронікі позняга сярэднявечча. Захаваліся ніжнія часткі сцен, падвал аднаго з будынкаў з фрагментам брукаванай падлогі, а таксама ўчастак драўлянага машчэння б. Шклоўскай (цяпер Першамайская) вуліцы, пад якім знаходзіцца культурны пласт 15—16 ст. Пабудова, выяўленая ў Падміколлі, была, відавочна, домам гандляра. Захаваўся перакрыты паўцыліндрычнымі скляпеннямі двухкамерны падвал на ўзроўні 1-га паверха — рэшткі падлогі з прамавугольных непаліваных керамічных плітак (зялёнапаліваная і паліхромная з белай і ультрамарынавай палівай), пячная кафля 17—18 ст., аздобленая раслінным арнаментам. Будынкі ўзведзены з цэглы-пальчаткі (29—30×14—15×4—5 см), падмуркі цагляныя з рэдкімі дабаўкамі сярэдніх па памеры камянёў.

*Літ.:* 1221. *І. М. Чарняўскі.*

**МАГІЛЁЎСКІЯ МАНЕТНЫЯ СКАРБЫ.** 1) Знойдзены ў Магілёўскай губ. каля 1822. Вядома 1300 цэлых і некалькі сотень фрагментаваных («палавінак і чацвярцінак») куфіцкіх дырхемаў дынастый Умаядаў, Ідрысідаў і Абасідаў (сярод апошніх некалькі сотень штук манет Іспегбедаў — намеснікаў халіфаў у Табарыстане).

Манеты чаканілі манетныя двары Пірынейскага паўвострава (Кардова), Паўн. Афрыкі (Абасія, Валіле, Іфрыкія, Місір, Мубарака), Азіі (Іемам, Сана, Дзімешк, ал-Джазіра, ал-Куфа, Мадынат ас-Салам, Васіт, ал-Басра, Амоль, Хамадан, ал-Мухамедыя, Рэй, Джунжі-Сабур, Рам Хармуз, Істахр, Дарабжэрд, Ардашыр Хура, Керман, Зерэндж, Мерв, Балх, Самарканд і інш.), Закаўказзя (Маадэн Баджунейс, Арменія). Ухаваны ў канцы 820-х г. Расійская Акадэмія навук набыла 250 манет, лёс астатніх невядомы.

2) Знойдзены ў Магілёве ў 1936. У глінянай пасудзіне было 476 залатых манет, з якіх вядома 466 экз.

**Рэспубліка Злучаных Правінцый:** правінцыя Гельдэрн — дукат (88 экз.) 1596, 1598, 1599, 1606, 1608—1609, 1618, 1635, 1637, 1638, 1643—46, 1648—52; правінцыя Галандыя — дукат (17 экз.) 1595, 1622, 1631, 1633, 1634, 1637, 1642, 1649; правінцыя Зеландыя — дукат (5 экз.) 1593, 1596, 1599, 1631, 1632, двайны дукат (4 экз.) 1649, 1659; правінцыя Фрызія — дукат (9 экз.) 1589, 1598, 1605, 1609, 1630, 1634, 1639, 1645; правінцыя Вестфрызія — дукат (36 экз.) 1590, 1595, 1596, 1598, 1622, 1634, 1638, 1641, 1642, 1644, 1645, 1648—52; правінцыя Утрэхт — дукат (136 экз.) 1587, 1592, 1595—98, 1606, 1610, 1612, 1614, 1630, 1634, 1638, 1642—51; правінцыя Аверэйсел — дукат (6 экз.) 1616, 1631, 1635, 1637; назва правінцыі сцёртая — дукат 1648. **Імперскія гарады паўн. Нідэрландаў:** Дэвентэр — дукат (2 экз.) 1634, 1635; Зволе — дукат (39 экз.) з імем Рудольфа II [1576—1612] недатаваныя і 1630, 1631, 1636, 1638, 1641, 1642, 1644, 1646, 1648—50; Кампен — дукат (16 экз.) недатаваныя і 1646, 1648, 1649, 1651, 1652. **Іспанскія Нідэрланды:** Альберт і Ізабела [1598—1621], Брабант — двайны дукат недатаваны. **Данія:** Хрысціян IV — дукат 1646; Фрэдэрык III — дукат 1649. г. **Данцыг** — дукат (5 экз.) 1596, 1629, 1644, 1646. г. **Торн** — дукаты (2 экз.) 1635. г. **Вроцлаў** — дукат (2 экз.) 1554, 1558. **Саксонія:** Іаган Філіп і Фрыдрых Вільгельм — дукат 1638; Іаган Георг І — двайны дукат 1639. **Імперскія вольныя гарады:** Браўншвейг — дукат 1650; Гамбург — дукат 1642; Кёльн — дукат 1636; Любек — дукат (3 экз.) 1613, 1648, 1652; Нюрнберг — дукат (3 экз.) 1636, 1637, 1643; Росток — дукат 1636; Ульм — дукат 1637; Франкфурт — дукат (4 экз.) 1634, 1639, 1642; Штральзунд — дукат 1644; архіепіскапства Майнц, Ансельм Казімір — дукат 1641, Іаган Філіп — дукат (2 экз.) 1648; архіепіскапства Зальцбург, Міхаіл — дукат (3 экз.) 1555, 1556, 1559, Вольфганг Тэадор — двайны дукат 1593. **Верхняя Аўстрыя:** Фердынанд I — дукат 1546. **Ніжняя Аўстрыя:** Фердынанд I — дукат 1554; Максімілян II — дукат 1576; Рудольф II — дукат 1595. **Ціроль:** Леапольд [1619—32] — дукат недатаваны. **Чэхія:** Рудольф II — дукат (6 экз.) 1580, 1584, 1586, 1587, 1592; Фердынанд II — дукат (2 экз.) 1635, 1637; Леапольд I — дукат (2 экз.) 1684, 1692. **Трансільванія:** Іаан І Заполля — дукат 1539; Іаан II Сігізмунд — дукат (2 экз.) 1562, 1570; Сігізмунд Баторый — дукат (2 экз.) 1593, 1597; Іштван Бочкаі [1604—06] — дукат (2 экз.) недатаваны; Дзьёрдзь І Ракацi — дукат 1631. **Швейцарыя:** г. Хурдукат — дукат 1634. **Мадэна:** Цэзар д'Эстэ [1598—1628] — дукат недатаваны. **Савоя:** Карл Эмануіл І — дукат 1602. **Венецыя:** Іаан Мачэніга [1478—85] — цэхін недатаваны; Пётр Ларэдана [1567—70] — цэхін недатаваны; Алаізій Мачэніга [1570—77] — цэхін (2 экз.) недатаваны; Мікалай да Понтэ [1578—85] — цэхін (2 экз.) недатаваны; Іаан Карнара [1625—29] — цэхін (4 экз.) недатаваны; Францыск Эрыца [1631—46] — цэхін недатаваны; Павел Рэньер [1779—89] — цэхін (3 экз.) недатаваны; Людовік Манін [1789—97] — цэхін недатаваны. Адзін з найбуйнейшых скарбаў залатых манет на тэр. Беларусі. Ухаваны 1790-я г. Зберагаецца ў Эрмітажы.

*Літ.:* 1550, 1552. *В. Н. Рабцэвіч.*

**МАГІЛЁЎЦЫ,** курганны могільнік дрыгавічоў каля в. Магілёўцы Пружанскага р-на. За 1,5 км на З ад вёскі, на зах. ускраіне в. Асошнікі. 7 насыпаў выш. 0,3—0,85 м, дыям. 5,5—9,5 м. Размешчаны кампактнай групай на адлегласці 2,5—6 м. Курганы аплылі, задзернаваны, зараслі дрэвамі і хмызняком. На адным з курганоў пастаўлены помнік, прысвечаны паўстанню 1863—64. Адкрыў у 1968 В. Р. Супрун, абследавалі ў 1970 А. Р. Мітрафанаў, у 1980, 1985 Т. М. Каробушкіна. У 1983 Каробушкіна даследавала 1 насып, абкладзены камянямі (верагодна, і астатнія курганы мелі абкладку з камянёў). Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце галавой на З. У паўн.-ўсх. сектары кургана выяўлена вымостка з 7 камянёў. Каля ног нябожчыцы — вуголле. Знойдзены фрагменты чырвонаглінянага гаршка. Датуецца 11 ст.

*Літ.:* 583. *Т. М. Каробушкіна.*

**МАГІЛЬНА,** курганны могільнік каля в. Магільна Уздзенскага р-на. За 500 м на З ад вёскі, ва ўрочышчы Лэнгі. 10 насыпаў выш. 0,5—2 м, дыям. 5—10 м. Курганы выцягнуты ланцужком па лініі З — У, добра захаваліся. У 1979 выявіў М. М. Чарняўскі, абследаваў Л. У. Калядзінскі. Гл. таксама арт. *Магільнянскі замак.* *Л. У. Калядзінскі.*

**МАГІЛЬНЯНСКІ ЗАМАК.** На правым беразе р. Нёман, насупраць в. Магільна Уздзенскага р-на. У 1951 абследаваў А. Р. Мітрафанаў. З штучных умацаванняў замка захаваліся 2 дугападобныя валы выш. 1—1,5 і роў глыб. 1,5 м. На пляцоўцы замчышча (60×110 м) у яе паўд. частцы быў чатырохвугольны выступ, магчыма, рэшткі вежы. Уваход у замак быў, верагодна, з усх. боку: сюды вяла грэбля (захавалася да нашага часу). У 1975 замчышча амаль цалкам знішчана падчас дарожнабуд. работ, культурны пласт выкарыстаны для насыпу моста цераз р. Нёман. У час гэтых работ Г. В. Штыхаў

сабраў на замчышчы кафлю (перададзена ў *Заслаўскі музей рамёстваў і народных промыслаў*). У 1977—79 помнік абследаваў і зрабіў шурфоўку Л. У. Калядзінскі. Месцамі захаваўся культурны пласт таўшч. 0,15—0,2 м. Знойдзены рэшткі посуду, гаршковая і каробчатая кафля, цэгла, жал. вырабы (цвікі, кольца на кассё і інш.). На адной кафлі — выява анёла, ёсць фрагменты з раслінным і геам. арнаментам. Знаходкі датуюцца 16—17 ст. (перададзены ў *Уздзенскі гісторыка-краязнаўчы музей*). На Пн ад замчышча размяшчаўся могільнік, які ў 1979 даследаваў М. М. Чарняўскі. У пахаваннях знойдзены жал. нажы з меднымі накладкамі і штыфтамі для мацавання драўляных ручак. У пісьмовых крыніцах М. з. згадваецца ў інвентары замка 1536, які дае пералік замкавай зброі і даспехаў: шлемы, зярцалы, панцыры, плашчы чырвонага колеру, шчыты, гакаўніцы, рукавіцы і інш., упамінаецца ваенна-службовае насельніцтва. У інвентары замка 1592 гаворыцца пра двор і мяст. Магільнае, што знаходзілася недалёка ад замка. На гэтым месцы ў 1986—87 В. У. Шаблюк правёў абследаванне. Зафіксаваны культурны пласт 16—17 ст. *Л. У. Калядзінскі.*

**МАГЛЕМАЗЭ КУЛЬТУРА**, археал. культура мезалітычных плямён, якія ў 7—6-м тысячагоддзях да н. э. жылі на паўд. узбярэжжы Балтыйскага мора. Назву атрымала па знаходках у тарфяніку Маглемазэ на востраве Зеландыя (Данія). Насельніцтва займалася паляваннем, рыбалоўствам і збіральніцтвам, жыло невял. першабытнымі абшчынамі, вырабляла крамянёвыя прылады працы пераважна макралітычнага тыпу, а таксама мікраліты, рэчы з косці, рога і дрэва. М. к. займае выключнае становішча сярод тагачасных паўн. культур Еўропы дзякуючы добрай захаванасці драўляных і касцяных рэчаў у тарфянішчах. Выяўлены стараж. драўляны човен, рэшткі сабакі, гарпуны, рыбалоўныя кручкі. Адгалінаваннем М. к. з'яўляецца *кунда культура*, якая існавала ва Усх. Прыбалтыцы, пранікала і на Пн Беларусі. Некаторыя даследчыкі разглядаюць М. к. як папярэдніцу *свідэрскай культуры*. Частка рагавых і касцяных вырабаў *нёманскай культуры* маюць аналагі ў М. к.

*Літ.:* 798, 947. *У. Ф. Ісаенка.*

**МАДОРА**, курганны могільнік *радзімічаў* (11—12 ст.), каля в. Мадора Рагачоўскага р-на, за 500 м на ПнУ ад вёскі. 25 насыпаў выш. 0,5—2 м, дыям. 10—16 м (5 насыпаў знаходзяцца наводдаль ад асн. групы, што дало падставу некаторым даследчыкам лічыць іх асобным помнікам). Вядомы з 1873, абследавалі ў 1962 Л. Д. Побаль, у 1976 А. Р. Мітрафанаў. У 1967 Г. Ф. Салаўёва даследавала 6 курганоў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце (у 1 кургане ў падкурганнай яме) галавой на З (3 насыпы), на У (2 насыпы) і ПдУ (1 насып). Знойдзены сярэбраны бранзалет з S-падобнымі канцамі, бронзавыя паясныя кольцы, пярсцёнкі, лунніцы, пасярэбраныя і пазалочаныя шкляныя і сердалікавыя пацеркі, фрагменты ганчарнай керамікі. У 1977—79 А. М. Плавінскі і В. Н. Рабцэвіч раскапалі 7 курганоў (3 мужчынскія, 3 жаночыя і 1 кенатаф). Пахаванні арыентаваны галавой на З (жаночыя) і У (мужчынскія), знаходзіліся на мацерыку або на пясчанай падсыпцы (2 выпадкі).

Мужчынскія пахаванні без інвентару, у жаночых знойдзены шкляныя бочкападобныя і біпірамідальныя, сердалікавыя прызматычныя пацеркі, жоўты бісер, бронзавая лірападобная спражка, аздобленая па краі рэльефнай лініяй, з выпуклым востраканечным выступам у пярэдняй часткі, упрыгожаным разеткападобным чатырохпялёсткавым арнаментам, бранзалеты і пярсцёнкі з вітога меднага дроту, падвескі-амулеты, фрагменты ганчарнага посуду.

*Літ.:* 1046.

*А. Р. Мітрафанаў, А. М. Плавінскі.*

**МАДЫФІКАЦЫЯ** (ад лац. modificatio відазмяненне) у археалогіі, змяненне выгляду, формы, апрацоўкі, аздаблення рэчы, якое істотна не паўплывала на яе выгляд, прызначэнне, уласцівасці, а толькі ўдасканаліла яе. Мадыфікаваная рэч захоўвае падабенства з прататыпам, што дазваляе лёгка вызначыць яе паходжанне і паслядоўнасць унесеных у асн. тыпы змен, каб атрымаць яе новую разнавіднасць. Назіранне за М. рэчаў на працягу пэўнага часу дазваляе ўдакладніць храналогію, напр., жал. веку (гл. *Фібула*).

**МАДЭЛІРАВАННЕ** ў археалогіі, метад практычнага або тэарэтычнага даследавання аб'ектаў пазнання на іх мадэлях; пабудова мадэлей рэальна існуючых прадметаў і з'яў (жывых арганізмаў, інжынерных канструкцый, грамадскіх сістэм, розных працэсаў і інш.). Уключае шэраг падыходаў: наяўнае (археал. эксперымент), матэматычнае, камп'ютэрнае (імітацыйнае) М. Найбольш пашырана наяўнае М. Археолагі робяць макеты тых рэчаў ці пабудоў, рэшткі якіх знаходзяць у час раскопак, каб удакладніць свае ўяўленні пра тэхналогію іх стварэння або спосаб карыстання. Часам мадэліруецца працэс, што прывёў да ўтварэння культурнага пласта з пэўнымі рэшткамі: падпальваюць макеты пабудоў і ўмацаванняў, археолагі жывуць у макетах жытлаў, займаюцца там гасп. дзейнасцю. Выконваючы работу з дапамогай тых ці інш. прылад працы, вызначаюць іх прадукцыйнасць. З наяўным М. цесна звязаны трасалагічны метад — вызначэнне функцый прылад шляхам параўнання слядоў на іх рабочых частках са слядамі на макетах пры выкананні пэўных работ. Пры матэматычным М. працэс, што вывучаецца, прадстаўлены ў выглядзе формул і сістэм ураўненняў, пры камп'ютэрным М. — у якасці праграмы для ЭВМ.

Камп'ютэрнае М. даволі пашырана ў замежнай археалогіі. Яно выкарыстоўваецца для праверкі гіпотэз, узнаўлення тых працэсаў, якія цяжка або немагчыма назіраць непасрэдна. Напр., мадэліруецца размнажэнне і рассяленне чалавечых калектываў на працягу тысячагоддзяў, каб выявіць доўгатэрміновыя вынікі і заканамернасці гэтага працэсу. Вывучаецца эвалюцыя тыпаў прылад і ўпрыгожанняў, стратэгія засноўвання новых паселішчаў і інш. Метад вельмі эфектыўны і пры вывучэнні працэсаў, у якіх вял. ролю адыгрывае выпадковасць.

*Літ.:* 741, 1466, 1482. *В. Л. Насевіч.*

**МАЁЛІКА** (італьян. maiolica), від *керамікі*; вырабы з каляровай абпаленай гліны з буйнапорыстым чарапком, пакрытай непразрыстай палівай. Паводле прызначэння М. падзяляецца на архітэктурную (абліцовачныя пліткі, *кафля*) і бытавую (посуд — талеркі, міскі, куфлі, вазоны, дэкаратыўныя талеркі, кубачкі, келіхі; дробная пластыка, падсвечнікі). На Беларусі вядома з сярэдзіны 11 ст. (падлога Сафійскага сабора ў Полацку). Рознакаляровую М. выраблялі на Беларусі амаль ва ўсіх гарадах. У 12 ст. маёлікавымі пліткамі выкладзена падлога Барысаглебскай, Прачысценскай, Ніжняй цэркваў у Гродне. Знойдзены разнастайныя па форме і колеру абліцовачныя пліткі і бытавыя рэчы ў Полацку, Мінску, Друцку, Лагойску, Тураве, Пінску, Гродне, Навагрудку. У 13 ст. вытворчасць М. на Беларусі знікае. У 16 ст. пад уплывам культуры і эстэтыкі Адраджэння аднаўляецца ў выглядзе рэльефнай паліхромнай кафлі (Вільня, Гродна, Віцебск, Брагін, замкі ў Гарадку Маладзечанскага р-на, Мядзелі, Міры і інш.). У перыяд позняга феадалізму ў многіх гарадах існавала вытворчасць паліхромнай кафлі і посуду, прадукцыю вывозілі ў гарады Рускай дзяржавы. У 17 ст. мастацтва М. на Беларусі дасягае найвышэйшага росквіту, зрабіўшы значны ўклад у развіццё М. ў Рус. дзяржаве. У канцы 18 ст. вытворчасць М. паступова знікае, саступаючы месца *фаянсу*.

Маёлікавыя рэчы выраблялі з каляровых і светлых глін. Якасць фармовачнай масы залежала ад прызначэння вырабу, мясц. ганчарскіх традыцый. Дэкаратыўнае афармленне мянялася на працягу стагоддзяў пад уплывам культурных, бытавых, эканам., сацыяльных фактараў. Маёлікавыя вырабы былі манахромныя (пліткі, пасудзіны, дробная

пластыка 12 ст., кафля і посуд 2-й пал. 17—18 ст.) або аздабляліся рэльефам, размалёўкай на парадней паверхні, нанесенай да абпалу. Зберагліся фрагменты Гродзенскага маёлікавага посуду, плітак і цацак 12—13 ст., абліцовачных плітак 14—15 ст., кафляў 15 ст., мінскага маёлікавага посуду, полацкага, тураўскага, пінскага, мсціслаўскага посуду і плітак 12—13 ст., посуд і кафлі заслаўскія, віцебскія, копыскія 16—18 ст. У 16—17 ст. малюнак выконваўся густымі палівамі свабодна ці на контуры. У 2-й пал. 17—18 ст. панавала свабодная размалёўка вадкімі фарбамі на *эмалі*. У дэкоры пераважалі раслінныя і геам. матывы, у аздабленні кафлі значнае месца займалі антрапамагічныя, анімалістычныя, фантастычныя матывы, геральдычная і рэлігійная сімволіка.

*Літ.:* 219, 361. *І. У. Ганецкая.*

**МАЗА́ІКА** (франц. mosaïque ад лац. musivum, літаральна — прысвечанае музам), выява, узор, складзены з асобных кавалкаў каменю, смальты, керамікі, замацаваных у слоі вапны, воску і інш. На тэр. Беларусі М. вядома з 11 ст. (Сафійскі сабор у Полацку). Мазаічныя пліткі выяўлены ў Полацку, Віцебску, Друцку, Мінску, Лагойску, Пінску, Тураве. Фрагменты керамічных плітак 12 ст. зафіксаваны ў Гродне (Ніжняя, Барысаглебская, Прачысценская цэрквы); асаблівай прыгажосцю вызначаецца падкупальная прастора Ніжняй царквы, у характары арнаментыкі падлогі адчуваецца моцны візантыйскі ўплыў). Смальтавая М. 12 ст. вядома ў Полацку, ёю былі аздоблены ўчасткі сцен над саркафагам у храме-пахавальні Спаса-Ефрасіннеўскага манастыра і інш. У 12 ст. для гарадоў Беларусі характэрны кампазіцыі з манахромных плітак трох асн. колераў: жоўтага, зялёнага, карычневага. Разнастайнасць форм плітак дазваляла пазбегнуць манатоннасці малюнка. У гэты ж час у другіх рэгіёнах усх.-слав. зямель акцэнт рабіўся на багаты па каларыце арнамент (Кіеў, Чарнігаў, Уладзімір-Суздальскі) ці традыцыйным быў шахматны набор з аднатонных квадратных плітак (Ноўгарад).

*І. У. Ганецкая.*

**МАЗУ́РЫНА**, гарадзішча *днепра-дзвінскай культуры*. Каля в. Мазурына Міёрскага р-на, за 1,5 км на У ад вёскі, на мысе абрывістага берага Зах. Дзвіны. Мясц. назва Белая горка. Уведзена ў навуку Ф. В. Пакроўскім у 1893. Абследавалі ў 1956 Я. Г. Краскоўская, Э. М. Загарульскі, Л. Д. Побаль, у 1969 К. П. Шут. Раскопкі праводзілі ў 1974 А. Р. Мітрафанаў, В. І. Шадыра (80 м$^2$), у 1984 Э. М. Зайкоўскі (24 м$^2$). Захаванасць помніка дрэнная: пляцоўка амаль цалкам знішчана водамі Зах. Дзвіны. Памер 26×5—6 м, захаваўся вал даўж. 50 м і шыр. 20 м. Культурны пласт да 1 м. Знойдзены жал. серп, бронзавы пласціністы пярсцёнак, арнаментаваны насечкамі «ў елачку», рыбалоўны кручок, рэшткі керамікі. Напачатку гарадзішча было слабаўмацаваным паселішчам і мела толькі невял. вал, які неадназова павялічваўся за кошт падсыпкі культурным пластом з пляцоўкі, а потым — мацерыковым пяском і дзярнінай. На вале была абарончая сцяна, рэшткі абгарэлых плах ад якой знойдзены падчас раскопак.

Селішча, стаянка эпохі мезаліту. За 50—70 м на ПдУ ад гарадзішча, на спадзістым узвышшы карэннага берага Зах. Дзвіны. Мясц. назва Гарадзішча. Памер 140×50 м. Даследавалі ў 1974 Мітрафанаў, Шадыра, у 1984 Зайкоўскі. Выяўлены ямы з чорным гумусам, вугалямі, крамянёвымі вырабамі эпохі мезаліту (адшчэпы і скрабкі), а таксама ганчарная кераміка 15—17 ст., солід Зыгмунта III [1587—1632].

*Літ.:* 342, 909, 1313. *В. І. Шадыра.*

**МАЗЫР**, горад, цэнтр раёна. За 133 км на ПдЗ ад Гомеля, 7 км ад чыг. ст. Мазыр на лініі Калінкавічы — Оўруч, на аўтадарозе Бабруйск — Оўруч. Порт на р. Прыпяць.

Гарадзішча стараж. М. знаходзіцца ў горадзе на Гары Камунараў (б. Замкавая, або Спасаўская гара), на мысе паміж 2 шырокімі ярамі, што праразаюць высокі карэнны бераг Прыпяці. Выш. над узроўнем ракі 15—20 м. Пляцоўка формай нагадвае ромб, яе памер 120—140×100 м, забудавана мураванымі і драўлянымі пабудовамі, штучныя ўмацаванні не захаваліся. Абследаваў у 1951 Ю. У. Кухарэнка, даследавалі ў 1981—84 А. А. Трусаў (770 м$^2$), у 1983 І. М. Чарняўскі (16 м$^2$), у 1985 А. М. Кушнярэвіч (56 м$^2$), у 1988 І. І. Сінчук (42 м$^2$), у 1989 Т. С. Бубенька (некалькі шурфаў). У гіст. цэнтры М. па-за межамі гарадзішча праводзіліся назіранні за землянымі работамі, збіраўся пад'ёмны матэрыял у час разведак у рэчышчы Прыпяці, вывучаны культурны пласт на зах. і паўд. схілах падножжа Замкавай гары (Сінчук, 1988, 66 м$^2$). Культурны пласт уздоўж зах. схіла дасягае 2 м, цалкам склаўся ў 2-й пал. 18—1-й пал. 19 ст. Каля падножжа Замкавай гары на ПдЗ ад яе выяўлены рэшткі пабудовы 16—17 ст. з цэглы-пальчаткі з модульнымі памерамі 28,5×17×8 см, 32,5—33×17×8—9,5 см, (мода), 34,5÷33,5×7×8 — 8,5 см, 36,5×16,5×8 см з двухбаковымі прамымі барознамі. Раствор муроўкі вапнава-пясчаны, бедны, са значнымі слядамі вышчалочвання, што сведчыць аб раннім яе паходжанні. Шыр. сцяны 0,52 м, у муроўцы ёсць дзвярны праём. Відаць, выяўлены рэшткі сцяны — частка гар. умацаванняў (брама або вежа) сярэдзіны 16 ці пач. 17 ст. Паводле геаразведкі і археал. раскопак, культурны пласт на Замкавай гары да 1 м у паўд.-зах. частцы і больш за 2 м у цэнтры. Пласт са знаходкамі рэчаў 17 ст. не захаваўся, відаць, ён быў ссунуты пры перапланіроўцы мясцовасці. На левым беразе Прыпяці выяўлена лакальная канцэнтрацыя матэрыялаў сярэдзіны — 2-й пал. 17 ст. на адлегласці 1,5 км уверх па цячэнні (магчыма, рэшткі сядзібы). На тэр. цыстэрцыянскага кляштара знойдзены фрагменты керамікі ранняга жал. веку, а таксама 18—19 ст. У працэсе археал. даследаванняў Замкавай гары знойдзена каля 900 фрагментаў шкляных бранзалетаў 12—1-й пал. 13 ст., большасць якіх выраблена з каліева-свінцова-крэменязёмнага шкла. Імпартныя бранзалеты, якія знойдзены ў адзінкавых экземплярах, выраблены з натрыева-крэменязёмнага шкла з выкарыстаннем кобальта ў якасці фарбавальніка. У каляровай гаме бранзалетаў пераважае зялёны, сустракаюцца блакітны, карычневы, салатавы колеры. У якасці фарбавальнікаў выкарыстоўвалі таксама вокіслы медзі, жалеза, марганцу. Значная частка бранзалетаў кручаная з шаблонным рыфленнем (ад 4 да 12 зубцоў, з шагам 14—23 мм), трапляюцца інкруставаныя кантрастным шкляным жгутом (звычайна жоўтым) кручаныя, гладкія і рыфленыя. Сабрана вял. колькасць фрагментаў керамічнага посуду (толькі венчыкаў налічваецца больш за 5 тыс.), пераважная большасць яго — ганчарныя гаршкі 12—15 ст. Дыям. вусця 11—29 см, амаль усе яны арнаментаваныя, частка посуду мае свідраваныя шышкі. Сярод посуду 12—15 ст. сустракаюцца латкі. Знойдзены таксама белагліняныя і дымленыя пасудзіны, паліваная кухонная і сталовая кераміка 17—18 ст. і больш позняга часу. Выяўлена каля 100 прасліц з пірафілітавага сланцу і вапняку, бардовы нацельны сланцавы крыжык, больш за 100 кавалкаў сланцу, сланцавыя загатоўкі дыскавай формы, што дае падставу сцвярджаць пра існаванне *Мазырскай каменярэзнай майстэрні* 12 — пач. 13 ст. Знойдзены асобныя экземпляры кафлі гаршковай 2-й пал. 15—16 ст. і каробчатай канца 16 — 1-й пал. 18 ст., некалькі соцень металічных рэчаў: 3 шыракалязовыя лопасцевыя сякеры (дзве 10—13 ст., адна 15—16 ст.), корд канца 15—16 ст., стрэлы 12—13 ст., рыбалоўныя кручкі, ключы цыліндрычных (12—15 ст.) і навясных (17 ст.) замкоў, нажы, каваныя цвікі, дробныя манеты 17—18 ст.

М. упершыню згадваецца ў летапісе ў 1155, калі вял. кн. кіеўскі Юрый Далгарукі часова перадаў горад чарнігаўскаму кн. Святаславу Ольгавічу. Гісторык П. М. Шпілеўскі, спасылаючыся на Т. Нарбута, паведамляў пра ўзяцце ў 1174 М. літ. кн. Скірмунтам, а таксама пра спусташэнне М. татарамі ў 1227, што няпэўна. У 12—13 ст. М.— адзін з самых паўн. гарадоў Кіеўскага княства, буйны пункт транзітнага гандлю Кіеўскай Русі, пра што сведчаць вынікі археал. раскопак і летапісныя звесткі. З 14 ст. (магчыма, пры вял. кн. літ. Гедыміне) М. увайшоў у склад ВКЛ. У «Спісе рускіх гарадоў далёкіх і блізкіх» (канец 14 ст.) М. упамінаецца сярод кіеўскіх гарадоў, г. зн. захаваў ранейшую адм.-тэрытарыяльную прыналежнасць. У ВКЛ знаходзіўся ў становішчы «господарского города», г. зн. з'яўляўся ўласнасцю дзяржавы. У 1497, 1521 і 1534 М. падвяргаўся нападам крымскіх татар, якія захоплівалі і руйнавалі яго. Першыя датаваныя звесткі пра Мазырскі замак, які ўзнік на месцы былога гар. дзядзінца, адносяцца да 1519. У 1577 М. атрымаў самакіраванне паводле магдэбургскага права. У 1576 у горадзе было каля 350 дамоў, рынак з 44 «коморами» (крамамі), больш за 5 цэркваў, шпіталь і інш., насельніцтва складала 1,5—2 тыс. чал. У 1615 у М. адбылося антыфеад. паўстанне гараджан. У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67 горад і замак моцна пацярпелі. Паводле сведчання дакументаў сейма 1676, «абрабаваны і спалены Мазыр уяўляе сабою жахлівыя руіны; выратавалася толькі некалькі дзесяткаў жыхароў». У інвентары 1724 у М. згадваюцца 4 вуліцы — Кіеўская, Оўруцкая, Свідаўская і Нагорная, у сярэдзіне 17 — пач. 18 ст. было каля сотні будынкаў. Да сярэдзіны 18 ст. горад паступова аднавіўся, канчаткова сфарміравалася планіровачная структура гіст. цэнтра горада, якая ў асноўным захавалася да цяперашняга часу. Ядро горада Замкавая гара знаходзілася каля скрыжавання Кіеўскай і Свідаўскай вуліц, побач размяшчалася гандл. плошча, працягам якой былі прычалы на беразе Прыпяці. З ПдУ Замкавую гару акаймоўвала вул. Замкавая. Гэтыя вуліцы і каля дзесятка невял. завулкаў складалі аснову М. ў 2-й пал. 18 — пач. 19 ст., як гэта зафіксавана на планах горада. Паводле 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) М. у складзе Расійскай імперыі.

*Літ.:* 150, 439, 612, 703, 1095, 1224.
*Р. В. Баравы, І. І. Сінчук.*

**МАЗЫ́РСКАЕ ГАРАДЗІ́ШЧА КІ́МБАРАЎКА,** археал. помнік раменска-боршаўскай культуры і часоў Кіеўскай Русі ў г. Мазыр. На месцы б. в. Кімбараўка, каля мэблевай ф-кі, на мысе паміж ярамі правага берага Прыпяці. Пляцоўка памерам 130×80 м, з Пн, Пд і У мае стромкія схілы (выш. над поплавам р. Прыпяці каля 20 м), з паўд. боку поля ўмацавана валам выш. каля 4 м і ровам глыб. каля 3 м. Выявіў у 1926 Б. І. Федарака, абследавалі ў 1951 Ю. У. Кухарэнка, у 1976 У. Ф. Ісаенка, даследаваў у 1982 Г. М. Залашка. Ва ўсх. частцы пляцоўкі раскапана 136 м². Культурны пласт 0,2—0,7 м. Знойдзены фрагменты ляпнога (рэшткі гаршкоў раменска-боршаўскага тыпу з арнаментам у выглядзе кручанага шнура і кераміка бронзавага веку) і ганчарнага (з лінейным арнаментам, тыповым для 11 ст.) посуду. Выяўлены рэшткі частаколу, які ішоў паўкальцом і агароджваў пляцоўку з боку ракі. Каля частаколу ў мацерыку прасочаны ямы, з якіх 2 ад жытлаў (памеры 5,2×2,4 м і 6×2,4 м).

Сярод знаходак — бронзавыя паясныя бляшкі, шыферныя і гліняныя праслiцы, сердалікавая пацерка, фібула, бразготка з крыжападобным прарэзам, крамянёвыя і жал. наканечнікі стрэл тыгель, крамянёвае крэсіва, жал. нажы, наканечнік кап'я-суліцы 10 ст., палавіна сярэбранага дырхема (манетны двор аль-Мухамедзія, 798—799). Гарадзішча ўзнікла, відаць, у сярэднявеччы, на месцы больш ранняга паселішча бронзавага веку. Датуецца 8—11 ст. На ПнЗ ад гарадзішча, за валам, выяўлена селішча раменска-боршаўскай культуры. Яго культурны пласт (0,16—0,4 м) прасочаны на адлегласці 300 м уздоўж даліны ракі. Знойдзены фрагменты ляпной і ганчарнай керамікі, кавалак аплаўленага шкла. Існавала адначасова з папярэднім помнікам. *У. Ф. Ісаенка.*

**МАЗЫ́РСКАЯ КАМЕНЯРЭ́ЗНАЯ МАЙСТЭ́РНЯ,** археал. помнік у Мазыры. Выяўлена ў 1981—82 экспедыцыяй спец. навук.-рэстаўрацыйных вытворчых майстэрняў у час раскопак замчышча. Знойдзена паўзямлянка 2-й пал. 12 — пач. 13 ст., недалёка ад якой брукоўка з камянёў і дробных кавалкаў шыферу. Тут сабрана больш за 100 малых і сярэдніх па памерах кавалкаў бардовага шыферу (пірафілітавага сланцу), 15 фрагментаў вял. шыферных дыскаў, падобных да жорнаў. Добра захаваліся 2 загатоўкі дыскаў дыям. 48,5 і 14,5 см, таўшч. 8,5 і 7,3—9 см з адтулінамі дыям. 3 і 5 см, вял. колькасць шыферных праслiц і дробных кавалкаў шыферу, якія ішлі на брукоўку. Відавочна, Мазыр быў прамежкавым пунктам перавозкі шыферных загатовак з Оўруча ў інш. цэнтры апрацоўкі шыферу (вядомы па раскопках у Кіеве, Суздалі, гарадзішча на р. Менка). Структурная адпаведнасць шыферных вырабаў і адходаў пацвярджае, што праслiцы выраблялiся мазырскімі майстрамі.
*А. А. Трусаў.*

**МАЗЫ́РСКІ ЗА́МАК.** Існаваў у 15—18 ст. на гарадзішчы стараж. *Мазыра.* Пабудаваны на месцы ўмацаванага драўлянага замка 14 ст. Займаў мыс паміж двума шырокімі ярамі, што праразалі высокі карэнны бераг Прыпяці. Паўавальны ў плане замак меў памеры каля 120×60 м. Першы вядомы інвентар М. з. за 1552 сведчыць, што як абарончае збудаванне замак існаваў ужо ў пач. 1480-х г. Акрамя «замка» і «паркана» інвентар згадвае «острог около всего места и ... ворот три», г. зн. уласна гар. ўмацаванні. У 1552 М. з. яшчэ не быў канчаткова адбудаваны пасля зруйнавання яго татарамі ў 1520—30-я г. Паводле інвентара за 1552, адбудова яго адносіцца да 1543. Уласна замак складаўся з 3 вежаў з гароднямі і некалькімі дамамі паміж імі, якія таксама выконвалі ролю абарончых умацаванняў. Перад замкам знаходзіўся паркан — передавое ўмацаванне. На замкавым двары знаходзіліся царква св. Спаса, некалькі жылых і гасп. пабудоў, калодзеж. У 1576 М. з. перабудаваны. Паводле інвентара гэтага года, ён меў ужо 5 вежаў, быў значна расшыраны і заняў абедзве часткі б. Спаскай гары. 2 вежы, якія былі на зах. краі гары, называліся «Птичская» і «башня над Мозырским рынком». У 1609 М. з. цалкам згарэў, але ў 1613 адноўлены на сродкі ад спец. назначанага ўрадам падатку. У ходзе ваенных падзей 17 ст. замак часта разбураўся, паступова быў закінуты і не аднаўляўся. У 18 ст. М. з.— парадны замкава-палацавы комплекс, які складаўся (паводле інвентара за 1772) з драўлянага палаца ў цэнтры і гасп. зоны. На замчышчы выяўлены рэшткі жылой пабудовы 16 ст. з кафлянай печчу, складзенай з гаршковай кафлі з квадратным вусцем і каробчатай кафлі, упрыгожанай па баках геам. арнаментам.

*Літ.:* 89, 118. *Р. В. Баравы.*

**МАЗЫ́РСКІ КРАЯЗНА́ЎЧЫ МУЗЕ́Й.** Адкрыты ў 1949 у г. Мазыр. У археал. калекцыі каля 11 тыс. адзінак (1991). Сярод іх скіфскі бронзавы наканечнік стралы 7—6 ст. да н. э., каменная свідраваная сякера, наканечнікі стрэл, фрагменты наканечнікаў коп'яў 10—12 ст., знаходкі, якія датуюцца 10—16 ст.: праслiца, фрагменты ганчарнага посуду, карчага, баявыя сякеры, корд. гранітны крыж с надпісам, тыгель, шкляныя бранзалеты, пацеркі і інш. У нумізматычнай калекцыі каля 4,5 тыс. манет, у т. л. 3,8 тыс. з 8 скарбаў. Прадстаўлены манеты ВКЛ, Рэчы Паспалітай, Рус. дзяржавы, Германіі, Прусіі, Аўстрыі, Францыі і інш. Найбольш старажытная — арабская манета 9—10 ст.

**МАЙСЕ́ЕЎКА,** гарадзішча *мілаградскай культуры* эпохі Кіеўскай Русі каля в. Майсееўка Мазырскага р-на. За 2 км на З ад вёскі, ва ўрочышчы Акопы (Буклееўка, Гарадзінка), на мысе карэннага берага безназоўнай рэчкі. Памер гарадзішча 230×120 м. На У і З ад яго глыбокія яры, з Пн і Пд — 2 падковападобныя валы выш. 2—4 м. Прасочаны 2 пляцоўкі: вял. паўднёвая (130×120 м) аддзелена ад меншай паўночнай 2 валамі выш. 2—3 м. Выявілі ў 1850 М. Балінскі і Т. Ліпінскі, абследаваў у 1875 А. Кіркор, даследавалі ў 1953 Ю. У. Кухарэнка, у 1957 Л. Д. Побаль, у 1976 У. Ф. Ісаенка, у 1983 Г. М. Залашка.

Культурны пласт 0,3 м ускрыты апошнім на пл. 80 м². Выяўлены рэшткі агнішчаў, каменне, знойдзены фрагменты ляпных гліняных гаршкоў, керамікі.

*Літ.:* 637. *У. Ф. Ісаенка.*

**МАЙШУЛІ**, археал. помнікі каля в. Майшулі Браслаўскага р-на.

Г а р а д з і ш ч а. За 300 м на У ад вёскі, ва ўрочышчы Рацкі Бор. Пляцоўка памерам 50×27 м умацавана 3 валамі і 2 равамі. Шыр. вала каля асновы 4 м, па грэбені 2 м, шыр. рова 2 м. Адкрыў і абследаваў у 1892 Ф. В. Пакроўскі, абследавалі ў 1977 В. І. Шадыра і Л. У. Дучыц. Культурны пласт не выяўлены.

К у р г а н н ы  м о г і л ь н і к балта-славянскага насельніцтва. За 500 м на Пд ад гарадзішча. Захавалася 16 курганоў. Адкрыў і даследаваў 20 курганоў у 1892 Пакроўскі, 3 насыпы даследавалі ў 1983 Л. У. Дучыц і В. І. Шадыра. Пахавальны абрад — трупаспаленне і трупапалажэнне. Пахавальны інвентар: наканечнік кап'я, жал. нажы, крэсівы, сякера, В-падобная спражка, трапецападобныя і грыбападобныя падвескі, бронзавыя званочкі, падкованападобная фібула, спіральныя пранізкі, шкляныя пацеркі, ляпны посуд. Датуецца 7—11 ст.

*Літ.:* 916, 1055.

*Л. У. Дучыц, В. І. Шадыра.*

**МАКА́РЫЧЫ**, 5 курганных могільнікаў дрыгавічоў каля в. Макарычы Старадарожскага р-на. За 150—300 м на У ад вёскі. 83 насыпы. Раскапаў і даследаваў 14 курганоў у 1888 М. Мышанкоў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў насыпе, яме, на грунце галавою на З (трапляецца на У і Пд). Выяўлены рэшткі пахавальных збудаванняў і трун, металічныя буйназярнёныя і шкляныя залачоныя і пасярэбраныя пацеркі, паўтараабаротныя скроневыя кольцы, ганчарныя гаршкі. Могільнікі не захаваліся. Датуюцца 11—13 ст.

*Літ.:* 811.

**МАКЕ́ЕЎКА**, курганны могільнік каля в. Новая Буда Гомельскага р-на. За 2 км на У ад вёскі, 2 км на Пн ад б. в. Макееўка, ва ўрочышчы Кардон, на правым беразе р. Уза. Даследаваў у канцы 19 ст. М. М. Філонаў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне. Знойдзены бронзавы пляскаты бранзалет з кропкавым арнаментам. У 1981 абследаваў А. А. Макушнікаў. Захавалася каля 30 насыпаў выш. 0,5—2,5 м, дыям. да 9 м. Датуецца канцом 10 — пач. 12 ст.

*Літ.:* 981.

**МАКО́ТРА**, м а к а ц ё р, ганчарны посуд у выглядзе перавернутага ўсечанага конуса для расцірання маку, гатавання ежы ў печы. Выраблялі з шэрай або чырвонай гліны з дамешкам пяску і жарствы. Вядомы па раскопках Віцебска, Мінска, Мсціслава, Ракава, паселішча *Сямёнавічы* Уздзенскага р-на і інш. Цэлыя макотры пач. 17 ст. выяўлены на *Віцебскім Верхнім замку* (выш. 16 см, дыям. донца 17 см, вусця 21 см, таўшч. сценак 1 см, аб'ём 4 л) і ў Крычаве (выш. 8,5 см, дыям. донца 11,5 см, вусця — 13,5 см, аб'ём 1,5 л). Вядомы паліваныя макотры 17 ст., якія выкарыстоўваліся для заквашвання цеста і інш. У рус. пісьмовых крыніцах вядомы з 16 ст. пад назвай «маковницы», упамінаюцца ў бел. крыніцах пач. 17 ст. У традыцыйным побыце беларусаў захаваліся да пач. 20 ст.



А. А. Макушнікаў.

*Літ.:* 440, 1105, 1399.

*Л. У. Калядзінскі.*

**МАКРАЛІ́ТЫ** (грэч. makrós вялікі + líthos камень), буйныя прылады працы, якія выраблялі з крэменю ў эпоху *каменнага веку*. Матэрыялам для М. служылі вялікія (8—20 см) крамянёвыя абломкі, пліткі, жаўлакі або нуклеусы, што апрацоўваліся спосабамі грубага абівання, нанясення буйной рэтушы. Сярод М. вылучаюцца сякерападобныя прылады (апрацаваныя з аднаго ці з двух бакоў, з перахопамі, траншэ, авальныя і інш.), цёслы, адбойнікі, грубыя скоблі і скрабкі, разцы, шырокія нажы, трохгранныя прылады тыпу пік (сякучыя, адціскальнікі, свердлы). Частка М. замацоўвалася ў дзяржаннях. Вытворчасць М. панавала і ў эпоху *мезаліту* ў некаторых абласцях Еўропы (Францыя, Паўн. Германія, зах. раёны Беларусі, басейны Дзясны і Сажа, вярхоўе Волгі), характэрна для лясной зоны. Кожны з рэгіёнаў вызначаецца своеасаблівай *макралітычнай культурай* (кампінійскай, Маглемазэ, нёманскай мезалітычнай, дзяснінскай, сожскай і інш.). *У. Ф. Ісаенка.*

**МАКРАЛІТЫ́ЧНЫЯ КУЛЬТУ́РЫ**, археал. культуры плямён позняга *мезаліту*, якія жылі на Пн і ў цэнтр. частцы Еўропы. Для М. к. характэрна вытворчасць вялікіх (50—200 мм) крамянёвых прылад працы з нуклепадобных адшчэпаў і пласцін. Пры іх апрацоўцы выкарыстоўвалася грубая абіўка (макралітычная тэхніка), наносілася буйная рэтуш, якая нагадвала мусцьерскую.

Сярод прылад многа сякучых і ўдарных: трапецападобныя (тыпу траншэ), авальныя і пікападобныя 3-гранныя (тыпу пік) сякеры, шматлікія скрэблы, масіўныя нажы, разцы, шырокія наканечнікі дзідаў з грубавырабленымі тронкамі (тыпу лінгбі). Частка сякер мае з боку звужэнні (перахопы) для больш трывалага замацоўвання ў дзяржанні. Мікралітычныя вырабы (гл. *Мікраліты*), невял. колькасць якіх трапляецца ў шэрагу комплексаў М. к., далі падставу некаторым даследчыкам для выкарыстання тэрміну «мікра-макралітычная культура» (у Панямонні, Данецкай вобл.). Да М. к. адносяцца культуры: кампінійская (у Францыі; раней разглядалася як усеагульная стадыя развіцця), маглемазэ (у Паўн. Еўропе); на З Беларусі — *свідэрская культура* (на позняй стадыі развіцця), *нёманская культура*, на У — *сожская культура* (днепра-дзяснінская), верхняволжская, дзяснінская культуры. На Пн Германіі была пашырана паўн. культура сякер, якая прайшла 3 стадыі (Пінберг, Дзювензээ, Ольдэслоэ). Наяўнасць вял. колькасці сякер у складзе культуры наогул — прыкмета позняга мезаліту або неаліту. На тэр. Беларусі да М. к. належаць помнікі *Жураўель, Печанеж, Шыхаў, Опаль, Моталь, Крыжы*, Арэхава, Чухава (Пінскі р-н), а ў суседніх раёнах Валынскай і Ровенскай абласцей Украіны — Любань, Нобель, *Марочна*, Омыт, *Сеньчыцы* і інш.

*Літ.:* 847, 1232. *У. Ф. Ісаенка.*

**МАКУКІ́НА** (ісп. Macuquina ад араб. макука — няправільны), сярэбраныя і залатыя манеты іспанскіх уладанняў у Амерыцы (пераважна Мексікі). Мелі вуглаватую форму з-за чаканкі не на манетных кружках, а на адсечаных ад паласы металу загатоўках. У еўрап. дзяржавах амаль не абарачаліся, а выкарыстоўваліся ў якасці сыравіны для манетнай і ювелірнай вытворчасці. 1) У 1572—1732 талер і яго фракцыі ў ½ і ¼, якія знешнім афармленнем паўтаралі іспанскі талерны намінал (песа, 8 рэалаў). На Беларусі сустракаюцца ў скарбах 17 ст. ў адзінкавых экземплярах, у пісьмовых крыніцах называліся «таляр ішпанскі абрэзаны». 2) Залатыя манеты, чаканеныя пры Карле II [1665—1700] наміналамі ў 8, 4, 2, 1 эскуза (*метрычная проба* 914 да 1684 і 896 пазней, *лігатурная маса* 1 эскуза 3,30 г).

*Літ.:* 1578а, 1748. *В. Н. Рабцэвіч.*

**МАКУ́ШНІКАЎ** Алег Анатолевіч (н. 15.6.1960, г. Гомель), беларускі археолаг. Канд. гіст. навук (1987). Скончыў Гомельскі ун-т (1982). З 1987 заг. сектара, аддзела археалогіі *Гомельскага абласнога края-*

*знаўчага музея*, з 1990 дырэктар *Гомельскага абласнога археалагічнага цэнтра*. Даследаваў помнікі 2-й пал. 1-га тысячагоддзя н. э. Ніжняга Пасожжа і прылеглых да яго тэр. Падняпроўя (агульная пл. 2040 м²). У 1986—89 вёў раскопкі Гомельскага гарадзішча, пасада, вакольнага горада. Выявіў, што Гомель узнік у 10 ст. на месцы ўмацаванага цэнтра радзімічаў. На тэр. вакольнага горада адкрыў Гомельскую майстэрню па вырабу зброі, на пасадзе — сядзібную планіроўку 11—12 ст.

*Тв.:* Кераміка паўднёвай часткі Дняпроўска-Сожскага міжрэчча V—VII (VIII) стст. н. э. // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1985. № 6; Археологические памятники Гомельщины. Мн., 1988 (разам з У. У. Багамольнікавым); Паходжанне Гомеля: (Па матэрыялах археалагічных даследаванняў) // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1989. № 6; Основные этапы развития летописного Гомия (до середины XIII в.) // Проблемы археологии Южной Руси. Киев, 1990. *Т. М. Каробушкіна.*

**МАЛАДЗЕ́ЧАНСКІ ЗА́МАК.** Існаваў у 14—18 ст. на правым беразе р. Вуша. З'яўляўся цэнтрам абароны сярэдневяковага Маладзечна. У пісьмовых крыніцах упершыню згадваецца ў 1388. У розны час належаў князям Заслаўскім, Мсціслаўскім, Сангушкам, Агінскім і інш. Пры ўзвядзенні М.з. ўдала выкарыстаны нізкі балоцісты рэльеф і натуральныя ўмацаванні. У ходзе будаўніцтва была падведзена грэбля, вымашчаны на балоце ўчастак 120×80 м, насыпана са жвіру і пяску пляцоўка выш. 4 м. Па яе краі ўзвялі пясчана-гліняныя валы выш. да 3,5 м і шыр. 11 м. Спачатку тут стаялі драўляныя сцены-гародні і вежы, у т. л. ўязная брама. У 17 ст. на вуглах замка пабудаваны бастыёны галандскага тыпу, што адпавядала зменам у тактыцы абароны і аблогі. Для прадухілення апаўзання зямлі каля падножжа бастыёнаў была агароджа слупавой канструкцыі. Знутры вала, у месцах яго прылягання да брамы, насыпы былі арміраваны мураванымі каменнымі сценкамі. Маладзечна было спустошана ў канцы 14 ст. ў перыяд барацьбы Свідрыгайлы з Жыгімонтам Кейстутавічам за вялікакняжацкі трон. У 1519 наўгародска-пскоўскія ратнікі на чале з кн. М. Кісліцай былі «под Молодечно» і, напэўна, спалілі яго. Паходы паўтарыліся ў тым жа 1519 і 1533. Сляды агню ў профілі замкавага вала і культурным пласце пацвярджаюць шматразовыя пажары ўмацаванняў. У 1568 пад Маладзечна размяшчалася 40-тысячная армія Жыгімонта II Аўгуста, якая мела намер прадухіліць паход войск Івана IV Грознага на ВКЛ. У 1708 моцны рус. атрад доўга абараняў горад ад групоўкі войск шведскага караля Карла XII. Гэта, відаць, была апошняя бітва, у якой выкарыстоўваліся ўмацаванні М. з. У 17—18 ст. у замку знаходзілася рэзідэнцыя кн. Агінскіх. У ходзе археал. даследаванняў (М. А. Ткачоў, 1976) тут знойдзены разнастайная кераміка, паліваная і тэракотавая кафля, курыльныя люлькі, шпоры з коламі, нажы, цвікі і інш. М.з. разбураны ў канцы 18 ст. На тэр. замка быў невял. мураваны храм. Паводле археал. раскопак (Ткачоў, 1980), ён меў памеры 11×24 м, быў размаляваны фрэскамі, існаваў у 16—18 ст.

*Літ.:* 1200. *М. А. Ткачоў.*



Фрагмент кафлі 16—17 ст. з выявай мужчыны і надпісам з **Маладзечанскага замка.**



Фрагменты кафлі 15—18 ст. з **Маладзечанскага замка.**

**МАЛАТО́ЎКІ,** курганны могільнік эпохі Кіеўскай Русі каля в. Малатоўкі Бялыніцкага р-на. За 200 м на З ад вёскі, у полі. 34 насыпы выш. 0,5—2 м, дыям. 5—15 м. У 1975 Я. Р. Рыер раскапаў 2 курганы. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў насыпе галавой на З. Пахавальны інвентар: жал. нож і гліняныя ганчарныя гаршкі. Датуецца 11 ст.

*Літ.:* 968. *Я. Р. Рыер.*

**МАЛЕ́ЙКІ,** курганны могільнік каля в. Малейкі Брагінскага р-на. За 1,2 км ад вёскі, ва ўрочышчы Курганне, на левым беразе р. Брагінкі. Налічваў 30 курганоў. Многія насыпы разбураны ў 19 ст. Даследаваў у 1890 У. З. Завітневіч (6 курганоў). Пахавальны абрад — трупаспаленне на мацерыку; перапаленыя косці сабраны ў насыпе. Выяўлены рэшткі вертыкальных слупоў, фрагменты гаршкоў.

*Літ.:* 379, 994. *Г. В. Штыхаў.*



М. У. Малеўская.

**МАЛЕ́ЎСКАЯ** (М а л е ў с к а я-М а л е в і ч) Мар'яна Уладзіміраўна (н. 27.5.1918, Ленінград), рускі археолаг. Скончыла Ін-т імя І. Рэпіна Усерасійскай акадэміі мастацтваў (1946). У 1952—86 навук. супрацоўнік Ленінградскага аддзялення Ін-та археалогіі АН СССР. Асн. кірунак даследаванняў — археалогія стараж. горада, у т. л. архітэктура Беларусі і Украіны 12—15 ст., бытавая і архітэктурна-дэкаратыўная кераміка. У 1940—57 удзельнічала ў экспедыцыях пад кіраўніцтвам М. К. *Каргера*. У 1966 па матэрыялах даследаванняў М. М. *Вароніна* ў *Гродзенскім Старым замку* выканала рэканструкцыю падлогі *Гродзенскай Ніжняй царквы*. У 1958—77 даследавала стараж. Навагрудак: правяла раскопкі царквы 14—17 ст., грамадзянскай пабудовы 14 ст. на тэр. Навагрудскага замка. У 1970—80 кіраўнік архітэктурна-археал. даследаванняў на тэр. Украіны.

*Тв.:* К реконструкции майоликового пола Нижней церкви в Гродно // Культура Древней Руси. М., 1966; Поливная керамика древнего Новогрудка // Сов. археология. 1969. № 3; Архитектурный комплекс новогрудского детинца XIII—XIV вв. // Древнерусское

государство и славяне. Мн., 1983; Применение брускового кирпича в архитектуре Западной Руси второй половины XIII—XIV в. // Сов. археология. 1989. № 4. *А. А. Трусаў.*

**МАЛМЫ́ГІ**, стаянка неаліту і бронзавага веку каля б. в. Малмыгі Вілейскага р-на. За 500 м на ПдУ ад б. вёскі, якая цяпер, як і тэрыторыя стаянкі, затоплена Вілейскім вадасховішчам. Выявіў у 1966, даследаваў у 1972 (ускрыта 240 м²) М. М. Чарняўскі. Культурны пласт таўшч. 0,3—0,4 м, перакрыты навеяным пяском. Выяўлены рэшткі агнішчаў-кастрышчаў і агнішчаў, выкладзеных камянямі, вохрыстыя плямы, заглыбленні з гумусаванай глебай у мацерыку, матэрыялы ранняга і позняга этапаў *нарвенскай культуры,* адзінкавыя фрагменты *тыповай грабеньчата-ямкавай керамікі культуры.* Трапляюцца знаходкі *шнуравой керамікі культуры* ранняга бронзавага веку і фрагменты керамікі познабронзавага часу з заштрыхаванай паверхняй. *М. М. Чарняўскі.*

**МАЛО́Е ЗАРЭ́ЧЧА,** стаянка ранняга этапу *грэнскай культуры* каля вёскі Малое Зарэчча Шклоўскага р-на. За 500 м на ПдУ ад вёскі, на левым беразе Дняпра. Выявіў у 1975 і даследаваў 83 м² у 1980 і 1982 В. Ф. Капыцін. Культурны пласт на глыб. 0,2—0,4 м, яго верхняя частка разбурана разворваннем. Зафіксаваны 2 скопішчы крамянёў дыям. каля 5 м, знойдзены крамянёвыя тронкавыя наканечнікі стрэл, канцавыя скрабкі, у т. л. двайныя, рэтушаваныя і двухгранныя разцы, камбінаваныя прылады (скрабкі-разцы), вастрыі, праколкі, шматлікія прадукты расшчаплення крэменю (нуклеусы і іх сколы, пласціны, адшчэпы, дробная луска і асколкі). Матэрыялы раскопак маюць аналагі ў комплексах крамянёвага інвентару са стаянак *Бароўка, Грэнск, Дальняе Ляда, Лудчыцы, Хвойная* і пацвярджаюць думку даследчыкаў пра засяленне лясной зоны Еўрап. часткі СССР у позналедавіковы час.
*Літ.:* 576, 578. *В. Ф. Капыцін.*

**МАЛО́Е СІ́ТНА,** замчышча на Пн ад в. Малое Сітна Полацкага р-на. На паўд.-зах. беразе воз. Сітна. У Лівонскую вайну 1558—83 рус. войскі пабудавалі (1563) умацаванне «гарадок». У снежні 1566 войскі ВКЛ на чале з Бірулем захапілі ўмацаванне і разбурылі яго. Зноў адбудаваны рус. войскамі ў 1579. Вядомы паводле малюнка С. Пахалавіцкага 1579. Даследаваў у 1969 М. А. Ткачоў. Замак стаяў на штучным земляным узвышшы з унутранай драўлянай асновай, меў 4 вежы і браму, абмываўся водамі возера і р. Палата. Аднак планіроўка помніка не адпавядае малюнку С. Пахалавіцкага, які, відаць, маляваў М. С. са слоў відавочцаў. 4.8.1579 войскі Стэфана Баторыя канчаткова разбурылі замак. Збераглося земляное ўзвышша выш. да 7 м.
*Літ.:* 200а, 1191. *М. А. Ткачоў.*

**МАЛЫ́ АЗЯРЭ́ЦК,** курганны могільнік *крывічоў* каля в. Малы Азярэцк Сенненскага р-на. За 1 км на Пн ад вёскі, ва ўрочышчы Камуна, на ўсх. беразе воз. Маеўскае. У літаратуры вядомы пад назвай б. в. Вядзец. Больш за 50 насыпаў выш. 2—3 м, дыям. 5—15 м. У 1893 Е. Р. Раманаў раскапаў 5 курганоў. Пахавальны абрад — трупаспаленне і трупапалажэнне. Знойдзены ляпныя і ганчарныя гаршкі, у адным насыпе (з трупаспаленнем) — дырхем 914 дынастыі Саманідаў, паясны набор і гаршчок. Датуецца 10—13 ст.
*Літ.:* 66, 1046.



Бронзавая фібула з чырвонай эмаллю 3—4 ст. з гарадзішча **Малышкі.**



Глінянае прасліца 3—4 ст. з гарадзішча **Малышкі.**

**МАЛЫ́ СТА́ХАЎ,** археал. помнікі каля в. Малы Стахаў Барысаўскага р-на.

Курганны могільнік-1. За 3 км на ПдЗ ад вёскі, на левым беразе р. Бярэзіна, побач з сучаснымі могілкамі. Захавалася 40 курганоў выш. 0,5—2,5 м, дыям. 4—10 м. У 1931 А. М. Ляўданскі даследаваў 3 курганы. Пад вяршыняй насыпу знойдзены перапаленыя косці, рэшткі перапаленых бронзавых упрыгожанняў, шкляныя пацеркі і ляпны посуд, сярод якога ёсць з расчосамі. Курганы насыпаны на месцы селішча жал. веку, магчыма, банцараўскай культуры. У 1971 Г. В. Штыхаў раскапаў 1 курган. Пахавання не выяўлена. Знойдзены ляпная і ганчарная кераміка, кавалак патэльні.

Курганны могільнік-2. За 500 м на У ад могільніка-1, каля лясной дарогі. Захавалася 19 курганоў, з іх 2 авальныя, выш. 0,9 м, даўж. 6—8 м, астатнія круглыя, выш. 0,5—1,5 м, дыям. 4—7 м. Абследаваў у 1979 Штыхаў. *Г. В. Штыхаў.*

**МАЛЫ́ШКІ,** гарадзішча *штрыхаванай керамікі культуры* каля в. Малышкі Вілейскага р-на. За 100 м на З ад вёскі, на левым беразе р. Сэрвач. Пляцоўка паўавальная, памер 52×45,5 м. З трох бакоў умацавана падковападобным валам выш. з боку поля 5 м, з боку пляцоўкі каля 4 м. Частка пляцоўкі, што прымыкае да ракі, пашкоджана траншэямі часоў Вял. Айч. вайны. Выявілі ў 1938 Г. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіч, даследаваў у 1955—57, 1969, 1977—78 А. Р. Мітрафанаў на пл. 930 м². Выяўлены рэшткі 6 жытлаў, якія размяшчаліся ў 2 рады (у кожным па 3 жытлы) уздоўж стромкага берага выш. да 9 м ад узроўню ракі. Жытлы мелі зрубную канструкцыю, будаваліся з бярвён дыям. 0,2—0,3 м, пазы паміж імі абмазваліся глінай, сцены дадаткова падтрымліваліся слупамі. Кожнае жытло складалася з 4 жылых памяшканняў; мела двухсхільнае пакрыццё. У 1-м радзе (па краі берага) жытлы памерам 13,7—14× ×8 м, памяшканні 4,5—7×4 м, у 2-м радзе жытлы памерам 16,8—17,8× ×7,3—8,2 м, памяшканні 8—8,4× ×3,3—3,7 м. Унутры кожнага памяшкання знаходзіліся адкрытыя авальныя ці круглыя (дыям. 1,6—1,8 м) агнішчы з пласта пяску, абкладзенага валікамі гліны.

Пры раскопках траплялiся агнішчы ярусамі (ад 2 да 5), што сведчыць пра паўторную забудову жытлаў на адным і тым жа месцы. Знойдзены абломкі ляпных рабрыстых штрыхаваных гаршкоў, слоікавых і слабапрафіляваных пасудзін, 4 нештрыхаваныя падгляцаваныя гаршкі і фрагменты глянцаваных пасудзін, гліняныя тыглі для плаўкі бронзы, прасліцы і грузікі, арнаментаваныя геам. узорам, молат для апрацоўкі крыц, жал. наканечнікі коп'яў і дроцікаў, сякера, сярпы, нажы, спражкі, посахападобныя шпількі, познала-

тэнская фібула, бронзавыя шылы, падковападобная фібула з чырвонай эмаллю і трапецападобная падвеска. Гарадзішча датуецца 1—4 ст. н. э.

*Літ.:* 785. *А. Р. Мітрафанаў.*

**МАЛЫЯ ЁДКАВІЧЫ,** могільнік культуры шарападобных амфар (2-я пал. 3-га тысячагоддзя да н. э.) каля в. Малыя Ёдкавічы Берастаўіцкага р-на. Размешчаны на паўд.-зах. ускраіне вёскі. У час распрацоўкі пясчанага кар'ера знойдзены косці, гліняны посуд, каменныя і касцяныя вырабы. У 1971 К. Т. Кавальская даследавала рэшткі пахавання ў каменнай скрыні. Знойдзены вузкая долатападобная шліфаваная сякера з крэменю, касцяное долата, амфары, кубкападобныя вырабы з вушкамі, арнаментаваныя на шыйцы поясам з адбіткаў лінейнага штампа.

*Літ.:* 473. *М. М. Чарняўскі.*

**МАЛЫЯ ЗВОДЫ,** курганны могільнік усх. славян каля в. Малыя Зводы Брэсцкага р-на. За 2,5 км на ПнУ ад вёскі, у лесе, ва ўрочышчы Ворахава. 19 насыпаў выш. 0,2—0,5 м, дыям. 3—5,5 м, 18 у падножжы абкладзены камянямі. Мясц. назва Шведскія магілы. Абследаваў у 1976 Ю. У. Кухарэнка, у 1980, 1985 абследавала, у 1981—83 даследавала 10 курганоў Т. М. Каробушкіна.

Пахавальны абрад — трупапалажэнне галавой на З у падкурганных ямах глыб. ад 0,3 да 1,1 м. У некаторых насыпах выяўлены вуголле, плямы попелу, у 1 рэштку труны. У асн. пахаванні адзіночныя. Знойдзены фрагменты гліняных гаршкоў з рыфленнем, зробленых на ручным ганчарным крузе, бронзавыя і свінцова-алавяныя драцяныя скроневыя кольцы. Датуецца 11—13 ст.

*Літ.:* 583, 584, 585, 586. *Т. М. Каробушкіна.*

**МАЛЫЯ КРУГОВІЧЫ,** курганны могільнік *дрыгавічоў* 11—13 ст. каля в. Малыя Круговічы Ганцавіцкага р-на. За 1 км на З ад вёскі, ва ўрочышчы Баркі. Мясц. назва Шведскія капцы. 18 курганоў выш. да 1,3 м, дыям. да 12 м. Выявіў у 1929 С. Пшэворскі, абследавалі ў 1965 і 1985 П. Ф. Лысенка, у 1970 В. Б. Караткевіч, у 1971 М. Ф. Гурын. У 1955 Ю. У. Кухарэнка і Б. В. Міралюбаў раскапалі 3 курганы.

Пахавальны абрад — трупапалажэнне. Знойдзены гліняныя ганчарныя гаршкі, жал. абручы і дужка ад драўлянага вядра. За 500 м на З ад вёскі размешчаны могільнік (20 курганоў выш. 0,8—1,5 м, дыям. 8—12 м). Другі могільнік (11 курганоў выш. 0,7—2 м, дыям. 8—14 м) знаходзіцца за 500 м на ПнУ ад вёскі.

*Літ.:* 641. *П. Ф. Лысенка.*

**МАЛЫЯ РОГІ,** паселішча эпохі неаліту каля в. Малыя Рогі Жлобінскага р-на. На У ад вёскі, на мысе, утвораным паваротам р. Дабасна ва ўрочышча Падлужжа. Выявілі ў 1927 К. М. Палікарповіч і С. С. Шчутаў, у 1958 І. І. Арцёменка раскапаў 36 м². Знойдзены прылады працы, нажы, скрабкі, наканечнікі стрэл і інш., адходы крамянёвай вытворчасці, фрагменты ляпнога посуду.

*Літ.:* 73. *А. Г. Калечыц.*

**МАНАГРАМА** (лац. monogramma ад грэч. mónos адзін, адзіны + grámma рыса, літара, напісанне), скарочанае напісанне імя, тытула на манеце з выкарыстаннем адной або некалькіх пачатковых літар, якія ўтвараюць *лігатуру* ці складана пераплецены *вензель.* Упершыню М. з'явілася на антычных манетах, шырока выкарыстоўвалася з 2-й пал. 17 ст. На манетах ВКЛ і Каралеўства Польшчы М. манарха ўжывалася з пач. 16 ст.



Пасудзіна з могільніка **Малыя Ёдкавічы.**



Бронзавыя і свінцова-алавяныя скроневыя кольцы з курганнага могільніка **Малыя Зводы.**

*Літ.:* 1649, 1659.

**МАНЕТА** (лац. moneta), грашовы металічны (зрэдку шкляны, фарфоравы, кардонны і інш.) знак дыскападобнай формы (за выключэннем *кліпы, макукіны, платы*) з нанесенымі на ім клеймамі — *штэмпелямі.* Назва традыцыйна звязана з эпітэтам рымскай багіні Юноны Манеты (Yuno Moneta), пры храме якой у 3 ст. да н. э. знаходзіўся *манетны двор.*

М. ўзнікла ў Кітаі ў 12 ст. да н. э., ва ўсх. Прычарнамор'і (малаазійская дзяржава Лідзія, в. Эгіна) на мяжы 7 і 6 ст. да н. э. Першыя М. Русі выпускалі ў канцы 10 — пач. 11 ст. (*златнік, срэбранік*), ВКЛ — у канцы 14 — пач. 15 ст. (*дэнарый, пенязь*). Слова «М.» ў якасці састаўной часткі *легенды* ўведзена эмісіямі Стараж. Рыма, шырока выкарыстоўвалася ў вытворчасці грошай еўрап. сярэднявечча і новага часу. у Польшчы ўпершыню ўжыта ў часы Казіміра III Вялікага [1333—70], у ВКЛ — Аляксандра Ягелончыка [1492—1506], у Расіі — Пятра I з 1704. М. характарызуецца 2 асн. групамі адзнак: матэрыяльнай (метал, *лігатура, лігатурная маса,* манетная *стапа, проба*) і знешняй (*поле, апушка, гурт, аверс, рэверс, легенда*). Да асобных катэгорый М. адносяцца манета анэпіграфная, *манета асадная, манета зубчастая, манета мемарыяльная, манета надзвычайных абставін, манета фальшывая, манета-перайманне,* таксама М., не прызначаныя для абарачэння — *манета-данатыва, манета пробная, манеты-падробкі* антыкварныя. Як састаўная частка *манетнай сістэмы* М. мае *намінальную вартасць* і *рэальную вартасць.* Вывучэннем М. як помніка грашовага абарачэння (*скарб манетны*) займаецца *нумізматыка* (гл. ўступны арт.).

*Літ.:* 1538, 1565, 1584, 1691. *В. Н. Рабцэвіч.*

**МАНЕТА АСАДНАЯ,** разнавіднасць *манеты надзвычайных абставін,* якая чаканілася ў абложаных гарадах. Распаўсюджана ў дзяржавах Еўропы з 16 ст.

У 1577 Гданьск, абкружаны польскай арміяй, выпусціў шэлег, грош, талер і *паўталер* (золата і серабро), *дукат* і паўпартугал. На *аверсе* гэтых манет была выява гар. герба і легенда (лац.) **Moneta · nova. Civitatis · Gedanensis** (манета новая горада Гданьска), на рэверсе — профільная паясная выява Ісуса з дзяржавай у руцэ і легенда **Defende · nos. Christe. Salvator** (абарані нас, Хрыстос бязгрэшны). У гар. абарачэнні таксама былі розныя польскія і зах.-еўрап. манеты, контрамаркіраваныя 4 відамі мініяцюрных *штэмпеляў.* 22.11.1813 у абложаным рус. войскам г. Замосце герцагства Варшаўскага з медных аўстрыйскіх манет наміналам у 6 крэйцараў і серабра мясц. кляштара францысканцаў адчаканены медныя *шэсць грошаў* (1330 экз.) і сярэбраны двайны злоты (7830 экз.). На аверсе легенда **moneta w oblężeniu zamościa** (манета абложанага Замосця), на рэверсе — **boże dopomóż wiernym oyczyźnie** (божа, дапамажы верным Айчыне). У 1831 Варшаваі выпушчаны *манеты мяцежныя.*

*Літ.:* 1650, 1671, 1701. *В. Н. Рабцэвіч.*

**МАНЕТА БЕЛАЯ,** назва сярэбранай манеты, распаўсюджаная ў зах.-еўрап. дзяржавах з 14 ст. На Беларусі ў 16—17 ст. назва сярэбранай *манеты паўнавартаснай* незалежна ад яе вартасці, зрэдку — канкрэтнага *наміналу.* Першае ўпамінанне ў бел. пісьмовых крыніцах у 1510 адносна пенязя, апошняе — у 1737 *шастака.* Блізкія па значэнні — *манета бітая, манета важная, манета грубая, манета добрая, манета цвёрдая, манета цалковая,* процілеглыя — *манета злая, манета крэдытная, манета подлая, манета фальшывая.*

*Літ.:* 1585, 1693.

**МАНЕ́ТА БІ́ТАЯ,** назва паўнавартаснай манеты (шастак, *орт, талер*) на Беларусі, Украіне і ў Польшчы ў 17—18 ст. дзеля адрознення яе ад празмерна распаўсюджаных непаўнавартасных разменных манет (шэлег, *паўтарак)* у паўсядзённым гандлі. Напр., «біты шастак» — рэальны шасціграшовік, «шастак» — парытэтная 6 сярэбраным грошам сума ў шэлегах або паўтараках. Першае ўпамінанне ў бел. пісьмовых крыніцах у 1626 адносна орта, адно з апошніх — у 1771 талера. Блізкія па значэнні — *манета важная, манета грубая, манета добрая, манета цалковая,* процілеглыя — *манета дробная, манета злая, манета кантрактавая, манета фальшывая.*

*Літ.:* 1585.

**МАНЕ́ТА БРАКАВА́НАЯ,** назва на Беларусі ў 17—18 ст. манеты, якая страціла значную частку першапачатковай рэальнай вартасці з-за сцірання (гл. *Манета гладкая*) за час абарачэння або *абразання манеты, псавання манеты.* Блізкія па значэнні — *манета злая, манета подлая,* процілеглыя — *манета важная, манета добрая.*

**МАНЕ́ТА ВА́ЖНАЯ,** назва *манеты паўнавартаснай,* якая не страціла першапачатковай лігатурнай масы за час абарачэння (гл. *Манета гладкая*) або ад механічных пашкоджанняў (гл. *Абразанне манет, Псаванне манеты*). Першае ўпамінанне гэтага тэрміну ў бел. пісьмовых крыніцах у 1508 адносна *дуката,* апошняе — у 1750 *талера.* Блізкія па значэнні — *манета бітая, манета грубая, манета добрая, манета цвёрдая,* процілеглыя — *манета бракаваная, манета злая, манета подлая.*

**МАНЕ́ТА ГЛА́ДКАЯ,** назва манеты са сцёртымі (зусім або значна) адбіткамі *штэмпеляў* і відавочнай стратай першапачатковай масы, г. зн. *рэальнай вартасці,* у выніку працяглага абарачэння. У бел. пісьмовых крыніцах М. г. ўпамінаецца пераважна ў 2-й пал. 17—1-й пал. 18 ст. адносна *шэлега* і *паўтарака.* Блізкія па значэнні — *манета бракаваная, манета злая,* процілеглыя — *манета важная, манета добрая, манета цвёрдая.*

**МАНЕ́ТА ГРУ́БАЯ** (польск. moneta gruba манета тоўстая, буйная), назва буйных сярэбраных наміналаў (*талера* і яго фракцый) на Беларусі ў 2-й пал. 17 — пач. 18 ст. Зрэдку М. г. называўся медны шэлег *(бараціінка)* для адрознення яго ад шэлега білоннага з удвая меншай масай.



**Манета.** 1. Э г і н а, стацер каля 650—600 да н. э. (серабро). 2. Ф р а к і я, стацер каля 520 да н. э. (серабро). 3. Е г і п е т, Пталамей I (323—283 да н. э.), тэтрадрахма. 4—5. Р ы м (рэспубліка): дэнарый каля 45 гадоў да н. э. (на аверсе: партрэт багіні Юноны-Манеты; на рэверсе: інструменты манетчыка); Проб [276—282], сестэрцый (на рэверсе: постаці 3 багінь Юнон-Манет адпаведна асноўным манетным металам — золату, серабру і медзі). 6 А н г л а - с а к с ы, трэміс 7 ст. (золата). 7—8. Г е р м а н і я: Атон I [936—962], дэнарый г. Магдэбурга (серабро); абатства Эшвеге, бракткат каля 1200 (аверс, серабро). 9. В і з а н т ы я, Мануіл I Камнін [1143—1180], гіперперон (золата). 10. В е н г р ы я, Уладзіслаў II Ягелончык, 12 дукатаў 1506 (золата).

Блізкія па значэнні — *манета бітая, манета важная, манета добрая, манета цвёрдая*, процілеглая — *манета дробная.*

**МАНЕ́ТА ДО́БРАЯ,** назва *манеты паўнавартаснай.* У бел. пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца пад 1392 у дачыненні да *гроша пражскага,* апошняе — у 1761 да *тынфа.* Найб. распаўсюджана з 1690-х г. Ужывалася звычайна як адна з назваў сярэбраных і залатых манет высокай *пробы (трояк,* шастак, *орт, паўталер, талер, дукат),* радзей — канкрэтнага наміналу, зрэдку — паўнавагавага меднага шэлега *(барацінкі).* У Расіі словы «М. д.» змяшчалі на *манетах пробных* Пятра І (палціна 1699) і масавых выпусках палцін 1701, 1702, 1705, 1706, рублёў 1704. Мела дадатковыя эпітэты «белая» (гл. *Манета белая),* «стародавна» (гл. *Манета старая).* Блізкія па значэнні — *манета бітая, манета важная, манета грубая, манета цвёрдая, манета цалковая,* процілеглыя — *манета бракаваная, манета гладкая, манета злая, манета подлая, манета фальшывая.*

*Літ.:* 1585, 1620. *В. Н. Рабцэвіч.*

**МАНЕ́ТА ДРО́БНАЯ** (польск. moneta drobna манета маленькая, дробная), назва *манеты разменнай* (часцей *дэнарыя* і шэлега) у 15—17 ст. У бел. пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца ў 1498. Процілеглая па значэнні — *манета грубая.*

**МАНЕ́ТА ЗЛА́Я,** назва непаўнавартаснай манеты. На Беларусі ў 16—18 ст. агульная назва іншаземнай *манеты разменнай,* таксама *манеты гладкай,* абрэзанай (гл. *Абразанне манет, Псаванне манеты*) або *манеты фальшывай.* Блізкія па значэнні — *манета бракаваная, манета подлая,* процілеглая — *манета добрая.*

**МАНЕ́ТА ЗУБЧА́СТАЯ,** назва залатых, сярэбраных або медных манет Рымскай рэспублікі (2—1 ст. да н. э.), Карфагена, Македоніі, Сірыі (2 ст. да н. э.) з зубчастым *гуртам.* Зубцы наносілі на край манетнага кружка пасля адціскання на ім *легенды* і выяў *штэмпелем* з мэтай ускладніць выраб *манеты фальшывай,* у прыватнасці *манеты субэратнай.* Найб. распаўсюджаны від М. з.— рымскі *дэнарый.*

**МАНЕ́ТА КАНСТЫТУЦЫ́ЙНАЯ,** назва манет, якія абарачаліся ў сістэме *курэнцыі канстытуцыйнай.* Пашырана ў афіцыйных дакументах Рэчы Паспалітай 1720—60-х г.



**Манета.** 11. Іспанія. Хуана і Карл І, 20 эксэлентэ 1520 (золата). 12. Англія. Эдуард VI Цюдор [1547—53], саверэн (золата). 13. Савоя, Эмануіл Філіберт, скуда 1573 (золата). 14—17. Расія, залатыя данатыўныя: Фёдар Іванавіч [1584—98], «угорскі»; Міхаіл Фёдаравіч [1613—45], 3 «угорскія»; Аляксей Міхайлавіч [1645—76]; партугал; Соф'я Аляксееўна [1682—89], 4 чырвонцы (за Крымскія паходы 1687, 1689).

**МАНЕ́ТА КАНТРА́КТАВАЯ,** пісьмовае абавязацельства вексельнага тыпу на выплату пэўнай грашовай сумы, процістаўленай рэальнай манеце (напр., «рукаданая не кантрактавая добрая манета», «рукаданая сума не кантрактавая»). У бел. пісьмовых крыніцах упамінанне М. к. сустракаецца ў 1637 і апошняе ў 1669 (абодва ў Слоніме).

**МАНЕ́ТА КРЭДЫ́ТНАЯ** (ад лац.

creditum пазыка), назва манеты, *намінальная вартасць* якой перавышае яе *рэальную вартасць*. Ва ўмовах глыбокага крызісу дзярж. фінансаў практыка грашовых эмісій М. к. вядома як спроба яго перадолення або замаруджвання.

Ранні выпуск М. к. адносіцца да 406 да н. э. (медныя манеты Афін былі абʼяўлены парытэтам сярэбраным), найб. пашыраны ў познім сярэдневеччы і ў новы час. У большасці выпадкаў блізкая да *манеты надзвычайных абставін*. У ВКЛ М. к.— *талеры «спадчыны каралевы Боны»* 1564, у Рэчы Паспалітай — медны шэлег *(барацінка)* 1659—66 і злоты *(тынф)* 1663—66, у Расіі — медныя *дзенга, капейка, алтын, палціннік*, выпушчаныя паводле грашовай рэформы 1654—63.

**МАНЕ́ТА МЕМАРЫЯ́ЛЬНАЯ** (ад лац. memoria памяць), манета камемаратыўная, манета памятная, манета, выбітая ў гонар знамянальнай падзеі (каранацыя, шлюб або смерць *эмітэнта*, юбілей дзярж. падзеі, заключэнне мірнага дагавору і г. д.).

Вядома з антычных часоў: у 479 да н. э. ў г. Сіракузы выпушчана тэтрадрахма (удзесяцяроная *драхма*) у гонар перамогі над Карфагенам, цар Македоніі Дзяметрый I Паліяркет [306—286 да н. э.] выпусціў тэтрадрахму ў гонар перамогі над егі-



**Манета.** 18. Германская «Свяшчэнная Рымская імперыя», Рудольф II Габсбург, талер 1597 г. Кёльна (серабро). 19—20. Саксонія: Хрысціян I, талер 1589; Хрысціян I, Іаан Георг I і Аўгуст, талер 1603. 21. Данія. Крысціян IV Альдэнбургскі, 8 солідаў 1608 (серабро). 22. Саксонія. Фрыдрых Аўгуст I, $^{1}/_{6}$ талера 1707 (серабро). 23. Аўстрыя, Іосіф II, 4 дукаты 1786 (золата). 24. Вялікабрытанія, Вікторыя Гановерская, саверэн 1843 (золата). 25. Германія. Вільгельм II Гагенцолерн, 10 марак 1898 (золата). 26. Францыя. Напалеон III, 100 франкаў 1855 (золата). 27—28. ЗША: 1 пінч Аляскі 1897 (золата); 20 долараў 1883 (золата).

пецкім флотам, рымскі прэтор Юній Брут (п. у 42 да н. э.) — дэнарый у памяць сакавіцкіх ід 44 да н. э., калі ім быў забіты Юлій Цэзар, і інш. У раннім сярэднявеччы эмісіі М. м. рэдкія, напр., дэнарый 1122 герм. імператара Генрыха V у гонар пагаднення з папам Калікстам II. Найб. распаўсюджанне атрымала эмісія М. м. з 16 ст. На Беларусі выпушчаны талер Таргавіцкай канфедэрацыі 1793, адчаканены *Гродзенскім манетным дваром*. У 1832—1914 выпушчаны *манеты мемарыяльныя Расійскай імперыі*. Разнавіднасць М. м. — т. зв. руднічныя манеты, легенды якіх паведамляюць пра паходжанне металу, з якога яны зроблены. У 16—18 ст. у германскіх дзяржавах выпускалі «дукаты рачнога золата», у легендах якіх названы Дунай, Ізар, Рэйн і інш. рэкі, у Каралеўстве Польшча (у складзе Расійскай імперыі) — *грош* 1822—25 і *траяк* 1626—27 з легендай **z miedzi kraiowej** (з айчыннай медзі), 10 злотых з легендай **z srebra kroiowego** (з айчыннага серабра), у Расіі — 2,5 і 10 капеек 1766—67 для абарачэння ў Сібіры з легендай **колыванская медь** на *гурце*, залатыя *пяць рублёў* 1832 з легендай **из розс**[ыпей] **колыв**[ано-Вознесенских]. У наш час М. м. эмітуюць многія дзяржавы (гл. таксама *Манеты мемарыяльныя СССР*). М. м. трэба адрозніваць ад *манеты-данатывы*, якая не прызначана для абарачэння.

*Літ.:* 1542, 1565, 1691.

*В. Н. Рабцэвіч.*

**МАНЕ́ТА НАДЗВЫЧА́ЙНЫХ АБСТА́ВІН**, манета, якая эмітавалася




**Манета асадная:** 1. Талер 1577, г. Гданьск; 2—3. 6 грошаў і 2 злотыя 1813, г. Замосце.




**Манета мемарыяльная.** Візантыя: 1. Канстанцін VII, двайны міліярысій 945. Рэч Паспалітая: 2. Г. Торунь, талер 1630 у гонар знішчэння шведскай асады ў 1629; 3. Аўгуст II, талер 1708 у гонар графіні Козель. 4. Гановер: Георг III, двайны дукат 1767 з золата рудніка «Св. Якаб» у гарах Гарца.

ў крызісных і палітычных абставінах, а таксама для забеспячэння дзярж. плацяжоў на замежных тэрыторыях. Звычайна яе *намінальная вартасць* перавышала рэальную, часам гэтыя вартасці супадалі; зрэдку *рэальная вартасць* перавышала намінальную.

М. н. а. найчасцей мела форму *кліпы* або няправільную геаметрычную. Выраблялісе з металу, зрэдку з фарфору, шкла, скуры, дрэва і інш. матэрылаў. У гісторыі грашовага абарачэння ВКЛ М. н. а. прадстаўлена *талерамі* *«спадчыны каралевы Боны»*, Рэчы Паспалітай — манетамі *Дальхольмскага манетнага двара*, Прусіі — эфраімкамі, Расіі — залатымі *дзенгай* і *капейкай* 1610—12, *шастаком* і *тымфам*, *манетамі расійскімі для Прусіі*. Разнавіднасцямі М. н. а. з'яўляюцца *манета асадная*, *манета крэдытная*, дзярж. выпускі *манеты субэратнай*.

*Літ.:* 1650, 1690, 1701.

*В. Н. Рабцэвіч.*

**«МАНЕ́ТА НО́ВАЯ»**, выраз, які змяшчаўся ў *легендзе* манеты новага, незнаёмага насельніцтву тыпу пры выключэнні з абарачэння ўстарэлай манеты. Захоўваў свой сэнс толькі на час першага выпуску такой манеты і страчваў яго ў наступныя гады яе вытворчасці.

Уведзены ў 14 ст. ў Брабанце, шырока распаўсюдзіўся ў грашовых эмісіях дзяржаў Еўропы 15—1-й пал. 18 ст. У ВКЛ змешчаны на *грошы* Аляксандра Ягелончыка [1492—1506], у Рэчы Паспалітай у літ. чаканцы — упершыню на *пайтараку* 1619, апошні раз — на пробным *траяку* 1706 *Гродзенскага манетнага двара*, у польскай чаканцы — упершыню на грошы 1579, апошні раз — на *тынфе* 1704, у Расіі — упершыню на *палціне* і *рублі* 1718, апошні раз — на пробнай *капейцы* 1735. У бел. пісьмовых крыніцах першае ўпамінанне «М. н.» у 1529 у дачыненні да *дэнарыя*, апошняе — пад 1769 адносна сярэбранай манеты Станіслава Аўгуста Панятоўскага.

*Літ.:* 1620, 1671, 1693.

*В. Н. Рабцэвіч.*

**МАНЕ́ТА НЯМА́Я**, манета анэпіграфная, 1) манета, пазбаўленая легенд (напр., брактэат). 2) Манета з несапраўднымі легендамі (імітацыі надпісаў, якія нельга прачытаць); часцей за ўсё гэта *манеты-пераймáнні* («варварскія пераймáнні») і груба выкананыя *манеты фальшывыя*.

**МАНЕ́ТА ПАЎНАВА́РТАСНАЯ**, манета, *намінальная вартасць* якой супадае з яе *рэальнай вартасцю*. У бел. пісьмовых крыніцах 16—17 ст. М. п. называліся *манета белая, манета важная, манета добрая, манета цалковая, манета цвёрдая*. Блізкія па змесце да М. п. *манета бітая, манета грубая*.



**Манеты плацінавыя.**

**МАНЕ́ТА ПЛАЦІНАВАЯ**, 1) манеты, выробленыя з «чышчанай» плаціны. Выпускаў Пецярбургскі манетны двор у 1828—45.

Абазначэнне наміналу 3 [6,12] **рубля на серебро** было парушэннем дзесяцічнага прынцыпу расійскай манетнай сістэмы, выкліканым вартаснымі суадносінамі плаціны і серабра ў 1820—40-я г. 3 рублі (*лігатурная маса* 10,35 г) чаканілі з 1828 (1 373 691 экз.), 6 рублёў (маса 20,71 г) — з 1829 (14 847 экз.), 12 рублёў (маса 41,41 г) — з 1830 (3474 экз.); агульны выдатак плаціны — 14,669 т. У чэрвені 1845 чаканка М. п. спынена (з-за зніжэння вартасці плаціны на міжнар. рынках і выпадкамі яе фальсіфікацыі за мяжой) і за 6 месяцаў знята з абарачэння з захаваннем за ёй права ўдзелу ў асабістых плацяжах.

2) Манеты наміналам 150 рублёў, выпушчаныя Ленінградскім манетным дваром у 1977—80 у гонар XXII Алімпійскіх гульняў у Маскве (тыраж 40 000 экз.), у 1988 — 1000-годдзя стараж.-рус. літаратуры 16 000 экз.), у 1989 — 500-годдзя адзінай рус. дзяржавы (16 000 экз.), у 1990 — 250-годдзя адкрыцця «Рускай Амерыкі» (6500 экз.).

Да М. п. адносяць і мемарыяльныя паладыевыя (метал плацінавай групы) манеты, выпушчаныя Ленінградскім манетным дваром наміналам 25 рублёў у 1988 у гонар 1000-годдзя хрышчэння Русі (7000 экз.), у 1989 — 500-годдзя адзінай рускай дзяржавы (12 000 экз.) і прысвечаная балету (30 000 экз.), у 1990 — 250-годдзя адкрыцця «Рускай Амерыкі» (2 віды, кожны па 6500 экз.) і прысвечаная рускаму балету (3000 экз.), наміналам 10 рублёў у 1990, прысвечаная балету (15 000 экз.). Матэрыяльныя і знешнія адзнакі гэтых манет гл. ў арт. *Манеты мемарыяльныя СССР*.

*Літ.:* 1525, 1620. *В. С. Касмылёў.*

**МАНЕ́ТА ПО́ДЛАЯ**, беларуская назва нізкапробнай манеты ў 17—18 ст., *намінальная вартасць* якой істотна саступала яе *рэальнай вартасці*. Блізкая па значэнні — *манета злая*, процілеглыя — *манета важная, манета добрая, манета цвёрдая*.

**МАНЕ́ТА ПРО́БНАЯ** (ад лац. probo выпрабоўваць, правяраць), эксперыментальны адбітак новага манетнага штэмпеля для зацвярджэння ў масавай эмісіі. Адхіленая *эмітэнтам*, захоўвалася на манетным двары. Часта выраблялася з металу большаг вартаснага, чым запланаваны (замест серабра — у золаце, замест медзі — у серабры).

Вядома з антычных часоў, шырока распаўсюджана з сярэднявечча. У Рэчы Паспалітай М. п. — польскія *орт* 1635 і недатаваны *грош* з выявай Т. Касцюшкі (каля 1794), літоўскія *партугал* 1639, *шэсць грошаў* 1679 і *траяк* 1706 *Гродзенскага манетнага двара;* у Расіі — *палціны* 1699 з выявамі Пятра I у анфас і профіль, *яфімак* 1798, *рубель* 1825 з выявай Канстанціна Паўлавіча, медныя *пяць капеек*, нікелевыя *дзесяць капеек, пятнаццаць капеек, дваццаць капеек, дваццаць пяць капеек* 1916; у СССР — меднанікелевыя 5 рублёў і інш. Разнавіднасць М. п. — *п'едфорт*.

*Літ.:* 1620, 1671, 1695.

*В. Н. Рабцэвіч.*

**МАНЕ́ТА РАЗМЕ́ННАЯ**, манета, *намінальная вартасць* якой перавышае яе *рэальную вартасць*. У адрозненне ад *манеты паўнавартаснай* не з'яўляецца грашамі, а толькі іх прадстаўніком — знакам. Розніца паміж яе намінальнай і рэальнай вартасцямі — адна з важных крыніц фіскальнага даходу *эмітэнта*. У бел.

пісьмовых крыніцах 15—17 ст. упамінаецца як *манета дробная.*

**МАНЕ́ТА СТАРА́Я** (манета давна, старадавна), назва *манеты разменнай* на Беларусі ў 16—18 ст. Першае вядомае ўпамінанне ў 1516 («грош шырокі стары»), часта сустракаецца ў дакументах з 1660-х г., калі фонд грашовага абарачэння быў перапоўнены білоннай і меднай манетай разменнай, што выклікала неабходнасць адмежаваць яе ад масы *манеты добрай,* шматлікія — дэнарыі Сулы [82—79 да н. э.]. Дзяржавы антычнага свету звярталіся да эмісіі *манеты зубчастай* для перашкоды вытворчасці М. с. фальшываманетчыкамі. З сярэднявечча М. с. выпускалі толькі фальшываманетчыкі. Зрэдку манету чаканілі з каштоўнага металу, потым пакрывалі іншым, адпаведным фальсіфікаванаму наміналу металам. Напр., у 2-й пал. 19 ст., калі плаціна каштавала ніжэй за золата, з яе выраблялі падробкі французскіх 20 франкаў і англійскага фунта стэрлінга (саверэн) залачоных.

На Беларусі зарэгістравана знаходка субэратнага *гроша пражскага* з жалеза, пакрытага серабром.

*Літ.:* 1538, 1542, 1585.

*В. Н. Рабцэвіч.*

лены з сур'ёзным злачынствам: законы Салона [594—593 да н. э.], Сулы [82—79 да н. э.], Дыяклетыяна [284—305], Канстанціна I [306—337], Феадосія I [379—395] за выраб М. ф. прадугледжвалі розныя віды пакарання смерцю; познарымская юрыспрудэнцыя кваліфікавала дзейнасць фальшываманетчыка як абразу манарха; сярэдневяковая — як найбольшае злачынства; у ВКЛ згодна Статутаў 1566, 1588 фальшываманетчыкі (саматужнікі і майстры Віленскага манетнага двара — мындзары, мынцары) караліся спаленнем. У бел. пісьмовых крыніцах М. ф. ўпамянуты ў 1388 у грамаце Вітаўта жыхарам Брэста, у 1493 у грамаце магістра Лівонскага ордэна пра масавую вытворчасць фальшывых лівонскіх шылінгаў у Полацку, у дакументах 16—18 ст.



**Манета пробная.** Рэч Паспалітая: 1—2. Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, паўгрош польскі 1786 і шастак 1766. Расія: 3. Іаан Антонавіч, рубель 1740; 4—5. Павел I, рубель 1796 і яфімак 1798.

прадстаўленай пераважна эмісіямі папярэдніх гадоў.

**МАНЕ́ТА СУБЭРА́ТНАЯ** (ад лац. subaeratus мае ў саставе метал), разнавіднасць *манеты фальшывай,* адчаканенай з невысакароднага металу (медзь, жалеза) з далейшым залачэннем або серабрэннем.

Эмітавалі фальшываманетчыкі і дзярж. манетныя двары. М. с. дзярж. вытворчасці чаканілі штэмпелем залатога або сярэбранага наміналу толькі ва ўмовах глыбокага фінансавага крызісу, калі яна з'яўлялася не толькі падробкай, але і *манетай надзвычайных абставін.* Вядома з антычных часоў, калі ў грашовай вытворчасці не выкарыстоўвалі лігатурныя сплавы. Першыя выпускі М. с. прадстаўлены дэнарыям Рымскай рэспублікі 217 да н. э., найб.

**МАНЕ́ТА ФАЛЬШЫ́ВАЯ,** манета нелегальнай імітацыі дзярж. грашовых эмісій у каштоўных і некаштоўных металах. М. ф. звычайна аднолькавай масы з сапраўднай манетай.

Падробкі залатых і сярэбраных наміналаў утрымліваюць больш за сапраўдныя лігатуры або выраблены з медзі, бронзы, жалеза з наступным залачэннем або серабрэннем. Ступень падабенства арыгіналу залежыць ад майстэрства фальшываманетчыка. Цяжкавызначальныя М. ф., чаканеныя прафесійным манетчыкам з выкарыстаннем сапраўдных *штэмпеляў.* Маштабы фабрыкацыі М. ф. звычайна прама прапарцыянальныя ўзроўню развіцця ў краіне таварна-грашовых адносін. Вядома з часоў узнікнення манеты і выпуск яе атаясам-

М. ф. называліся «клепачом», «манетай фалшованай», «манетай падмётнай». Разнавіднасць М. ф.— *манета субэратная.* М. ф. трэба адрозніваць ад *манеты перайманя.*

*Літ.:* 1551, 1585, 1693, 1718.

*В. Н. Рабцэвіч.*

**МАНЕ́ТА ЦАЛКО́ВАЯ** назва рэальнай сярэбранай або залатой *манеты паўнавартаснай (шастак, орт, талер, рубель, дукат)* у адрозненне ад парытэтнай ёй сумы, выражанай у *манеце разменнай.* У бел. пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца ў 1703 адносна шастака, апошні раз — у 1794 адносна рубля. Блізкія па значэнні — *манета бітая, манета важная, манета грубая, манета добрая, манета цвёрдая,* працi-

леглыя — *манета бракаваная, манета злая, манета подлая.*

**МАНЕ́ТА ЦВЁРДАЯ**, назва паўнавартаснай манеты. У бел. пісьмовых крыніцах вядома ў 17—18 ст., звычайна, адносна наміналу ў *талер.* Блізкія па значэнні — *манета бітая, манета важная, манета грубая, манета добрая,* процілеглыя — *манета бракаваная, манета гладкая, манета дробная, манета злая, манета подлая.*

**МАНЕ́ТА-ДАНАТЫ́ВА** (ад лац. dona дару), манета, якая выпускалася абмежаванымі тыражамі для даравання яе з боку *эмітэнта* прывілеяваным асобам, грашовага абарачэння не мела. Чаканілі на высокім мастацкім узроўні з золата, радзей серабра і некаштоўных металаў спецыяльнымі (зрэдку манетнымі) *штэмпелямі.*

Радзіма — Рымская імперыя, дзе пачалі выпуск медальёнаў — манетападобных знакаў для ўзнагарод. Вядомы залатыя медальёны часоў праўлення Аўгуста [27 да н. э.— 14 н. э.], сярэбраныя — Даміцыяна [81—96], медныя — Траяна [98—117]. Асаблівасць гэтых выпускаў — большая, чым у манет, маса. Напр., медальёны, выпушчаныя пры Элагабале [218—222], адпавядалі 2, 3, 4, 10 і 100 *аўрэусам.* У Польшчы першай М.-д. стаў «медальны талер» 1533, у ВКЛ — партугал 1562. У Расіі 15—17 ст. выпуск манет звязаны з воінскімі ўзнагародамі, дзеля чаго чаканілі залатыя *дзенгу* і *капейку,* таксама «угорскія» дукаты, кратныя (ад ½ да 10) масе чырвонца; у 18 — пач. 20 ст. выпускалі для раздачы іх членамі імператарскай фаміліі як узнагароды за дзярж. службу або ў сувязі з якой-небудзь падзеяй. Напр., чаканеная рублёвым штэмпелем у золаце манета для ўдзельнікаў дварцовага перавароту 1762, «сямейныя» паўтара рублі — 10 злотых (гл. *Манеты двухмоўныя*) 1835, 1836 з партрэтам Мікалая I і членаў яго сям'і, залатыя 37 руб. 50 кап.— 100 франкаў 1902 і інш. М.-д. адрозніваецца ад *манеты мемарыяльнай.*

6 7 8 9 10 11 12 13

**Манета пробная.** Р а с і я: 6. Канстанцін (не правіў), рубель 1825; 7. Аляксандр II. 10 капеек 1871 (нікель); 8—9. Мікалай II, імперыял — 5 русаў 1895 і 20 капеек 1911 (нікель); 10. Часовы ўрад 1917, без адзнакі наміналу (медзь). С С С Р: 11. Чырвонец 1925; 12. ½ капейкі 1961 (жоўты сплаў); 13. 5 рублёў 1958 (белы сплаў).




**Манета фальшывая.** Д а н і я: 1. Падробка часоў Хрысціяна IV [1588—1648] пад капейку Міхаіла Фёдаравіча 1619 (серабро). 2—3. Фальшывыя літоўскі (злева) і польскі соліды (барацінкі) Яна II Казіміра Вазы [1648—68] (медзь).

*Літ.:* 1542, 1565, 1608.

*В. Н. Рабцэвіч.*

**МАНЕ́ТА-НАВАДЗЕ́Л**, калекцыйная манета, выробленая манетным дваром для калекцыяніравання або экспанавання на нумізматычных і інш. выставах. Асноўная асаблівасць М.-н.— выраб яе ў больш позні час, чым адбітая на ёй дата. Для чаканкі манет выкарыстоўвалі арыгінал *штэмпеля,* які дапрацоўвалі (паліравалі поле, падпраўлялі

разцом дэфармаваныя дэталі выяў, легенд і інш.), або спецыяльна выраблялі новы, што часта недакладна капіраваў арыгінал (скажалася выява або легенда, памылковыя спалучэнні дат з адзнакамі наміналу, манетнага двара, ініцыяла мінцмайстра); зрэдку ў адной пары выкарыстоўвалі штэмпелі *аверса* і *рэверса* розных манет. Шмат выпускалася М.-н. у розных заходнееўрап. дзяржавах у 18 ст., у Расіі з'явілася ў канцы 18 ст. (да 1876 чаканіў Кацярынбургскі, да 1890 — Пецярбургскі манетныя двары). Паводле сучасных міжнар. правіл М.-н. павінна мець спец. знак, які дазваляе адрозніваць яе ад арыгінала. У цяперашні час часцей за ўсё выпускаюць залатыя М.-н. Напр., у 1949—51 Аўстрыя адчаканіла 4 і 8 фларынаў з датай 1892, дукат, 4 дукаты, 25 крон і 100 крон з датай 1915, Англія — фунт стэрлінгаў з датай 1925, у 1951—57 Францыя — 20 франкаў з датамі 1907 і 1914 і інш. Зрэдку на М.-н. змяшчаюць сапраўдную дату выпуску, што набліжае яе да *манеты мемарыяльнай.* Напр., у СССР навадзельны выпуск *чырвонца* РСФСР з датай 1923 працягваўся з 1975 з сапраўднай датай яе вытворчасці. М.-н. не варта змешваць з *манетамі-падробкамі* антыкварнымі, *манетай-перайманнем* і *манетай фальшывай.*

*Літ.:* 1565, 1611, 1620.

*В. Н. Рабцэвіч.*

**МАНЕТАПАДО́БНЫЯ ПЛАСЦІНКІ,** сярэбраныя пласцінкі пераважна ў форме кружкоў без адзнак чаканкі, якія з'яўляліся ў грашовым абарачэнні з-за недастатковага ўвозу чаканай манеты ў 10—12 ст., на тэрыторыі, дзе адсутнічала свая эмісія манет. Памер іх кружкоў і вага былі роўныя куфіцкаму *дырхему* (2,47—4,44 г) або зах.-еўрап. *дэнарыю* (1,29—1,79 г); зрэдку трапляюцца і чатырохвугольныя пласцінкі. З'яўленне мясц. чаканай манеты змяншала колькасць М. п. у грашовым абарачэнні.

У Стараж. Русі мелі вагу *вевярыцы* (0,332—0,34 г.), *куны* (2,6—2,7 г), *нагаты* (3,3—3,5 г). Выраблялі М. п. са зліткаў *плацежных,* расплясканых у ленту і пасечаных на квадрацікі, з якіх на Русі выразалі кружкі, адпаведныя вазе пэўнай грашовай адзінкі. На тэр. Беларусі выяўлены ў *Людвішчанскім*




**Манета-данатыва.** Рымская імперыя: 1. Канстанцый II [337—361] і Канстант [337—350], залаты медальён. Польшча: 2. Жыгімонт I Стары, «медальны» талер 1533. Рэч Паспалітая: 3. Зыгмунт III Ваза, 100 дукатаў польскіх 1621.

*манетным скарбе, Стражэвіцкіх манетна-рэчавых скарбах, Полацкім манетна-рэчавым скарбе.*

*Літ.:* 1565. *Ш. І. Бекціneeў.*

**МАНЕ́ТА-ПЕРАЙМА́ННЕ,** імітацыйная грашовая вытворчасць. Вядома з 4 ст. да н. э. як капіраванне знешняга выгляду іншаземнай манеты.

У антычныя часы і сярэднявеччы вядомы «варварскія пераймання» з характэрнымі грубымі скажэннямі выяў і *легенд* манет-прататыпаў. Асноўнай прычынай узнікнення М.-п. была неабходнасць ліквідацыі грашовага дэфіцыту, які узнікаў у выніку скарачэння або спынення паступленняў іншаземнай манеты, папулярнай на мясц. рынках, ці па інш. палітычных або эстэтычных меркаваннях. У 1891 у маёнтку Емянец Невельскага пав. Віцебскай губ. знойдзены каменны *штэмпель* для вырабу пераймання куфіцкага *дырхема*. Вядомы пераймання *альбертусталера, лабанчыка, лёвендаальдэра, паўгроша свідніцкага*. М.-п. адрозніваецца ад *манеты фальшывай*.

**МАНЕ́ТНАЯ РЭГА́ЛІЯ** (ад лац. regalis царскі), спадчыннае манапольнае права *эмітэнта* на даходы ад эмісіі манет; права на ўласную манету (манетнае права), якое належыць суверэннаму суб'екту (манарху, дзяржаве). М. р. можна было перадаць па кантракце арандатару манетнага двара, або, пры пэўных умовах, выкарыстаць для разлікаў з дзярж. запазычанасцю або асобамі.

**МАНЕ́ТНАЯ СІСТЭ́МА,** сукупнасць манет розных *наміналаў*, якія арыентаваны на пэўную *лікавую сістэму*. Часам паняцце «М. с.» трактуецца як сінонім дапаяровай *грашовай сістэмы*, калі маецца на ўвазе асн. манетны метал, зафіксаваныя законам *проба* і *лігатурная маса* манетных наміналаў.

*Літ.:* 1542, 1615.

**МАНЕ́ТНЫ ДВОР,** прадпрыемства па вырабу манет, ордэнаў, медалёў і інш. металічных знакаў. Па часе існавання М. д. мог быць пастаянным або часовым, у залежнасці ад уласнасці — дзяржаўным, прыватным, арандатарскім.

На дварах поўнага тэхналагічнага цыкла (звычайна пастаянных) выконвалі падрыхтоўку сплаваў на *плавільні*, выраб бляхі (пракоўкай або вальцоўкай) і дроту (працяжкай) для манетных загатовак, выбіванне з блях манетных кружкоў (пры штампоўцы) або рэзку дроту на загатоўкі і наступнае іх плюшчэнне, абпал манетных загатовак

**Манета-данатыва.** Расія: 4. Іван IV Грозны [1547—84], залаты ў 1/4 «угорскага»; 5. Барыс Гадуноў [1598—1605], залаты ў 1 «угорскі»; 6. Аляксей Міхайлавіч [1645—76], залаты ў 2 «угорскія»; 7. Іван V Аляксеевіч і Пётр Аляксеевіч [1682—96], залаты ў 9 «угорскіх»; 8. Аляксандр II, 25 рублёў 1876; 9—10. Мікалай II, залатыя 37 рублёў 50 капеек — 100 франкаў 1902 і 2 1/2 імперыяла — 25 рублёў 1908.



**Манета-навадзел.** Расія: 1. Чырвонца Пятра I. 1706. 2. Тынфа Пятра I. 1708.

або пласцін (для вальцоўкі) з іх бяленнем, механічную апрацоўку для нанясення на загатоўках выяў, перапрацоўку адходаў вытворчасці ў плавільні (гл. таксама арт. *Тэхніка манетнай справы*). М. д. няпоўнага тэхналагічнага цыкла (звычайна часовыя) працавалі на прывазных манетных загатоўках. З'яўленне ў антычнасці літых манет, а пазней літых загатовак спрашчала тэхналагічны цыкл на М. д. У СССР функцыяй М. д. з'яўляецца таксама штампоўка дзярж. знакаў адрознення, выраб залачоных і пасярэбраных рэчаў (гл. арт. *Манетны двор РСФСР, Манетныя двары СССР*). Папярэднікам М. д. ў Расіі з 14 ст. быў дзенежны двор. На тэр. Беларусі працавалі з 1665 *Брэсцкі манетны двор*, з 1706 *Гродзенскі манетны двор*, у 1796 запланавана адкрыццё *Полацкага манетнага двара*. Найб. вядомыя на тэр. Беларусі ў грашовым абарачэнні манеты выпускалі *манетныя двары Расійскай дзяржавы, Варшаўскі манетны двор, Віленскі манетны двор, Манетныя двары Рэчы Паспалітай*, некаторыя *манетныя двары замежныя, манетныя двары Саксоніі, Дальхольмскі манетны двор, Ковенскі манетны двор, Тыкоцінскі манетны двор, манетныя двары фальшываманетчыкаў*. *І. І. Сінчук.*

**МАНЕ́ТНЫ ДВОР РСФСР.** Створаны ў 1918 у Петраградзе на базе Пецярбургскага манетнага двара (засн. ў 1724; гл. ў арт. *Манетныя двары Расійскай дзяржавы*) як медальна-афінажны завод Галоўзолата, у 1921—22 — манетны двор Нар. камісарыята фінансаў РСФСР, з 1924 Ленінградскі манетны двор (гл. ў арт. *Манетныя двары СССР*).

Да жніўня 1921 ажыццяўляў афінаж (атрыманне каштоўных металаў высокай чысціні), выпускаў памятныя медалі і ўзнагародныя знакі, з верасня пачаў чаканіць сярэбраную банкавую і разменную манеты (з гербам РСФСР) наміналам у 50 капеек і 1 рубель (1921—22), 10, 15 і 20 капеек (1921—23), залаты чырвонец (1923, на аверсе герб РСФСР, на рэверсе выява сейбіта). Праект герба ў 1918 распрацаваў А. Леа, у 1920 медальер А. Васюцінскі скарыстаў яго ў змененым выглядзе на незацверджаным медалі да трохгоддзя рэвалюцыі. Усе манеты РСФСР чаканілі з гербам Васюцінскага, які быў аўтарам малюнка рэверса чырвонца. Усе манеты выпушчаны ў абарачэнне пасля завяршэння грашовай рэформы 1922—24 (гл. ў арт. *Грашовыя рэформы ў СССР*). На банкавых залатых і сярэбраных манетах у легендзе гурту змешчаны ініцыялы заг. манетных цэхаў — А. Г. (А. Гартман) і П. Л. (П. Латышаў).

*Літ.:* 1615, 1632. *М. І. Смірноў.*

**МАНЕ́ТНЫЯ ДВАРЫ́ ЗАМЕ́ЖНЫЯ,** якія чаканілі манеты для Расіі ў 18 — пач. 20 ст.

**Штатныя манетныя двары.** Кёнігсбергскі манетны двор (г. Кёнігсберг, Прусія, цяпер Калінінград). Выпускаў асн. частку *манет расійскіх для Прусіі.* Адзнака двара на манетах адсутнічае. Парыжскі манетны двор (г. Парыж, Францыя). У 1861 выпускаў 10, 15, 20 капеек, якія не адрозніваюцца ад рус. манет, чаканеных Страсбургскім манетным дваром у 1861, у 1896 — 25 капеек, у 1896, 1897, 1899 — рубель, у 1896, 1908 — *манеты-данатывы* залатыя 25 рублёў, у 1902 — манеты-данатывы залатыя 37 руб. 50 кап.— 100 франкаў. Адзнакі двара ў легендзе *гурту* — адна 5-прамянёвая зорачка (1896—99, 1902, 1908), у *полі* манеты — СПБ (знак Пецярбургскага манетнага двара без знака мінцмайстра ў 1861). На 25 капейках адзнака двара адсутнічае. Страсбургскі манетны двор (г. Страсбург, Францыя). У 1861 выпускаў 10, 15, 20 капеек, якія не адрозніваліся ад рус. манет, чаканеных Парыжскім манетным дваром у 1861. Адзнака двара — СПБ (знак Пецярбургскага манетнага двара без знака мінцмайстра). Стакгольмскі манетны двор (г. Стакгольм, Швецыя). Выпускаў у 1863 пробныя медныя наміналы для Вял. кн. Фінляндскага ў складзе Расійскай імперыі. Адзнака двара адсутнічае. Брусельскі манетны двор (г. Брусель, Бельгія). Выпускаў у 1871 пробныя медныя і нікелевыя 10 капеек, у 1897—99 — рубель. Адзнака двара ў легендзе гурту — дзве 5-прамянёвыя зорачкі (1897—99). Магчыма, чаканіў пробныя медныя і




**Манета-пераймание:** 1. Саманідскага дырхема Ісмаіла ібн Ахмеда [892—907] г. аш-Шаша, 2. Англійскага дэнарыя Этэльрэда II [979—1016]. 3—4. Венгерскага дуката «угорскага» і англійскага нобля (карабельніка) каля 1480 князем маскоўскім Іванам III [1462—1505] і яго сынам Іванам. 5—6. Малдова. Літоўскага траяка Стэфана Баторыя [1576—86] і польскага траяка Зыгмунта III Вазы [1587—1632]. 7—8. Данія. Рускіх капеек часоў Хрысціяна IV [1588—1648]. 9. Каменная форма для перайманняў куфіцкага дырхема, знойдзеная ў в. Емянец былой Віцебскай губерні.

нікелевыя 2 капейкі са знакам Екацярынбургскага манетнага двара (гл. ў арт. *Манетныя двары Расійскай дзяржавы*). Осакскі манетны двор (г. Осака, Японія). **Прыватныя прадпрыемствы.** У 1916 выпускаў 10 і 15 капеек, магчыма, пробныя нікелевыя 10, 15, 20, 25 капеек. Адзнака двара і знак мінцмайстра на манетах адсутнічаюць. Садагурскі манетны двор (маёнтак Садагура, цяпер у Румыніі). Выпускаў у 1771—74 манеты для армейскіх плацяжоў у Малдавіі і Валахіі ў час руска-турэцкай вайны 1768—74: медныя 3 дзенгі і пара-3 дзенгі (1771), медныя і бронзавыя пара-3 дзенгі (1772) і 2 пара-3 капейкі (1772—74), пробныя медныя 5 капеек (1771), сярэбраныя пара-3 дзенгі (1772) і 2 пара-3 капейкі (1772—73), медныя і сярэбраныя пара-3 дзенгі (1773). Адзнака двара ў полі манеты — S/Sadogura (1771, на пара-3 дзенгі і пробных 5 капейках). Бірмінгемскі манетны двор (г. Бірмінгем, Англія). Выпускаў у 1896—98 медныя наміналы, акрамя 5 капеек. Адзнака двара ў полі манеты — СПБ (знак Пецярбургскага манетнага двара).

*Літ.:* 1615, 1620. *В. Н. Рабцэвіч.*

**МАНЕ́ТНЫЯ ДВАРЫ́ РАСІ́ЙСКАЙ ДЗЯРЖА́ВЫ** 17 ст.—1917. **Штатныя манетныя двары.** Новы (Англійскі) дзенежны двор (Масква, б. будынак Англійскага двара). 1654—63. Выпускаў традыцыйныя драцяныя наміналы, у 1654 — першыя сярэбраныя *(рубель, чвэрць капейкі)*, медныя (палціннік, *алтын, дзве капейкі)* манеты і, магчыма, *паўпалціннік* і *грыўню*. Адзнака двара на манетах адсутнічае. Красны (Кітайскі, Стары) манетны двор (Масква, каля Кітайгародскай сцяны). У 1697—1797 выпускаў агульнадзярж. медныя, сярэбраныя і залатыя манеты, *шастак* і *цінф* Пятра I, *ліванезы* і *манеты расійскія для Прусіі* 1762 і 1796 (перачаканка медных наміналаў у сувязі з падваеннем іх манетнай стапы, потым перачаканка гэтых жа манет на першапачатковую стапу). Адзнакі двара ў легендзе гурту — **краснога денежного двора, московского монетного двора**, у полі манеты — КД (Красны двор), ММ (маскоўская манета, на медных наміналах 1758—95), ММД (Маскоўскі манетны двор), ЕМ (екацярынбургская манета, на наміналах адваротнай перачаканкі ў 1796). Кадашаўскі (Адміралцейскі, Ваенна-марскі, Замаскварэцкі, Хамоўны) манетны двор Масква, Кадашаўская слабада). Выпускаў у 1701—36 агульнадзярж. медныя (з 1704), сярэбраныя і залатыя манеты, шастак і цінф Пятра I. Адзнакі двара ў легендзе гурту — **денежного двора, монетного денежного двора, монетного двора, московского двора**, у полі манеты — **МД** (манетны двор), **мдд** (манетны дзенежны двор), мдз (манетнага двара завод), м (Масква), мм (маскоўская манета), **монетного денежного двора, москва.** Набярэжны медны двор (Масква, Крэмль). Выпускаў у 1699—1727 агульнадзярж. медныя манеты. Адзнакі двара ў полі манеты — **бк** (вял. казна, капейка 1704—11), **нд** (Набярэжны двор), **ндд** (Набярэжны дзенежны двор), **ндз** (Набярэжнага двара завод). Набярэжны сярэбраны манетны двор (Масква, Крэмль). З'яўляўся дзенежным двором і выпускаў у 1701—18(?) сярэбраныя капейкі з дроту. Адзнака двара на манетах адсутнічае. Новы манетны двор (Масква, Красная плошча). Дзенежны двор, выпускаў у 1700—18(?) толькі сярэбраныя капейкі з дроту. Адзнака двара на манетах адсутнічае. Плашчыльны млын (Масква, бераг р. Яуза). Выпускаў у 1727—30, 1734—36 агульнадзярж. медныя манеты. Адзнака двара на манетах адсутнічае. Пецярбургскі (з 1914 Петраградскі) манетны двор (Пецярбург, Петрапаўлаўская крэпасць). Выпускаў у 1724—28, 1738—99, 1805—1917 агульнадзярж. медныя, сярэбраныя, залатыя манеты, манеты плацінавыя, частку *манет двухмоўных, лабанчык, манету пераймание* сярэбранага піястра 1808—09 Турцыі (для патрэб расійскай арміі, што знаходзілася ў Малдавіі і Валахіі ў час руска-турэцкай вайны 1806—12), *манету пробную* (эталон для Калыванскага, Таўрычаскага і Тыфліскага манетных двароў), пробныя нікелевыя манеты 1911 (*пяць капеек, дзесяць капеек, дваццаць капеек* і *дваццаць пяць капеек*), у 1762 і 1796 — перачаканьваў медныя наміналы ў сувязі з падваеннем іх манетнай стапы, затым перачаканьваў іх на першапачатковую стапу. У 1832—40 выпускаў манеты двухмоўныя расійска-польскія. Выразаў штэмпелі для Гельсінгфорскага, Таўрычаскага і інш. манетных двароў, для завода Разенкранца (гл. ніжэй **Прыватнае**



**Манетны двор.** Гравюра канца 15 — пач. 16 ст.



Да арт. **Манетныя двары Расійскай дзяржавы.** Пецярбургскі манетны двор. Малюнак 1875.

**прадпрыемства)**, Брусельскага, Парыжскага, Страсбургскага і Осакскага манетных двароў, Бірмінгемскага прыватнага манетнага двара (гл. ў арт. *Манетныя двары замежных краін).* Адзнакі двара ў легендзе гурту — **С.-петербургского монетного двора**, у полі манеты — **см** (санкт-пецярбургская манета, 1797—99), **сп** (Санкт-Пецярбург, 1798), **спб** (Санкт-Пецярбург, 1724—96, 1805—1914), **спм** (санктпецярбургская манета, 1763—67, 1788, 1840—43, 1849 — толькі на медных манетах), **ем** (екацярынбургская манета, на наміналах перачаканкі ў 1796). З 1924 — Ленінградскі манетны двор (гл. *Манетны двор СССР*). Екацярынбургскі манетны двор (г. Екацярынбург). Створаны на базе казённых горных заводаў, якія ў 1725—27 выпускалі медныя платы. Да 1755 меў статус часовага манетнага двара. У 1727—34 нарыхтоўваў медныя манетныя кружкі для маскоўскіх манетных двароў, у 1735—1876 выпускаў дзярж. медныя манеты, у 1762 і 1796 перачаканьваў медныя наміналы ў сувязі з падваеннем іх манетнай стапы, потым перачаканьваў гэтыя манеты на першапачатковую стапу. Адзнакі двара ў легендзе гурту — **екатеринбургского двора** (на *копейцы* 1755—57, 2 копейках 1757—93, *четырех копейках* 1762 і 1796, на 2 і 4 копейках 1755—57), у полі манеты — екатеринбурх (на платах), **ем** (екацярынбургская манета). Анінскі манетны двор (с. Анінскае Пермскай губ.). Выпускаў у 1789—98 агульнадзярж. медныя манеты. У 1796 перачаканьваў медныя наміналы ў сувязі з падваеннем іх манетнай стапы. Адзнака двара ў полі манеты — **ам** (анінская манета) Калыванскі (Ніжне-Сузунскі, Барнаульскі) манетны двор (пас. Сузун Томскай губ.). 1763—1801. Выпускаў у 1763—81 медныя манеты *(палушка, дзенга,* 2 капейкі, 5 капеек, 10 капеек) для абарачэння ў Сібіры. у 1782—1801 агульнадзярж. манеты, у 1796 перачаканьваў медныя наміналы ў сувязі з падваеннем іх манетнай стапы, затым перачаканьваў гэтыя ж манеты на першапачатковую стапу. Адзнака двара ў легендзе гурту — **колыванская медь** (на сібірскіх 2, 5 і 10 капейках 1763—67), у полі манеты — **км** (калыванская манета, 1767—1801). Сузунскі манетны двор (пас. Сузун, Томская губ.). Выпускаў у 1802—47 агульнадзярж. медныя манеты. Адзнака двара ў полі манеты да 1830 — КМ (калыванская манета), пасля — СМ (сузунская манета). Сестрарэцкі манетны двор (с. Сестрарэцк Пецярбургскай губ.), зброевыя заводы. Выпускаў у 1757—78, да 1767 агульнадзярж. медныя 5 капеек, у 1770—71 пробныя медныя рублі (сярэдняя маса 1023,78 г), у наступныя гады былі безвыніковыя спробы наладзіць сістэматычную вытворчасць гэтых рублёвікаў, у 1762 перачаканьваў медныя наміналы ў сувязі з падваеннем іх манетнай стапы, затым перачаканьваў гэтыя манеты на першапачатковую стапу. Адзнакі двара ў легендзе гурту — **сестрорецкого монетного двора** (рублёвікі), **см** (сестрарэцкая манета, пятакі 1763—67). Колпінскі (Іжорскі) манетны двор (Іжорскія заводы Пецярбургскай губ.). Выпускаў у 1810—21, 1840—44 агульнадзярж. медныя манеты. Адзнакі двара ў полі манеты — **им** (іжорская манета, 1810—14, 1820—21), **км** (2 капейкі 1810 з мінцмайстарскім знакам **мк**), **спм** (санкт-пецярбургская манета, 1840—43). Таўрычаскі манетны двор (г. Феадосія, Таўрычаская губ., цяпер Крымская вобл.). Выпускаў у 1787—88, агульнадзярж. медныя манеты (пераважна 2 і 5 капеек), магчыма, спец. серыю сярэбраных манет (2,5, 10 і 20 кап.) у гонар падарожжа Кацярыны II у Крым. Адзнака двара ў полі манеты — **тм** (таўрычаская манета). Тыфліскі манетны двор (Тыфліс, цяпер Тбілісі). Выпускаў у 1804—33 (з перапынкам у 1825) медныя (пулі, паўбісці, бісці) і сярэбраныя (паўабаз, абаз, двайны абаз) манеты для Грузіі ў складзе Расійскай імперыі. *Варшаўскі манетны двор,* у 1816 — 64 выпускаў медныя, сярэбраныя і залатыя *манеты Каралеўства Польскага* ў складзе Расійскай імперыі і *манеты мяцежныя.* Гельсінгфорскі манетны двор (цяпер г. Хельсінкі). Выпускаў у 1863—1917 медныя (1, 5, 10 пені), сярэбраныя (25 і 50 пені, 1 і 2 маркі), залатыя (10 і 20 марак) манеты Вял. кн. Фінляндскага ў складзе Расійскай імперыі. Адзнака двара на манетах адсутнічае. **Часовыя манетныя двары** (без адзнак двароў). Ніжагародскі манетны двор (Ніжні Ноўгарад, Архірэйскі дом). У 1762 перачаканьваў медныя наміналы ў сувязі з падваеннем іх манетнай стапы, затым перачаканьваў гэтыя манеты на першапачатковую стапу. Ніжагародскі манетны двор (Ніжні Ноўгарад, дом Прыказа грамадскай апекі). У 1796 перачаканьваў медныя наміналы ў сувязі з падваеннем іх манетнай стапы, у 1797 перачаканьваў гэтыя ж манеты на першапачатковую стапу. Яраслаўскі манетны двор (г. Яраслаўль). У 1762 перачаканьваў медныя наміналы ў сувязі з падваеннем іх манетнай стапы, затым перачаканьваў гэтыя манеты на першапачатковую стапу. Парэцкі манетны двор (с. Парэчча Смаленскай губ., цяпер г. Дзямідаў Смаленскай вобл.). У 1762 перачаканьваў медныя наміналы ў сувязі з падваеннем іх манетнай стапы, затым перачаканьваў гэтыя манеты на першапачатковую стапу. Архангельскі манетны двор (г. Архангельск). У 1760-я г. — зваротная перачаканка медных наміналаў, перачаканеных у 1762 у сувязі з падваеннем іх манетнай стапы. *Полацкі манетны двор* (Полацк). У 1760-я г. павінен быў рабіць зваротную перачаканку медных наміналаў у сувязі з падваеннем іх манетнай стапы. Банкаўскі манетны двор (Пецярбург, будынак Асігнацыйнага банка). Выпускаў у 1799—1805 агульнадзярж. сярэбраныя і залатыя манеты. Замяніў Пецярбургскі манетны двор на час рэканструкцыі апошняга і таму пазначаў манеты яго знакамі — **см** (1799—1801), **сп** (1800), **спб** (1801—05). **Спецыялізаваныя манетныя двары.** Пуціўльскі манетны двор (паводле тагачасных дакументаў — дзенежны двор, г. Пуціўль, Курская губ.). Запланаваны як цэнтр выпуску *чэха пуціўльскага* граматай Аляксея Міхайлавіча (14.12.1675), граматамі Фёдара Аляксеевіча (29.3 і 5.4. 1677), але 15.11. 1677 падрыхтоўка да адкрыцця двара была спынена па невядомых прычынах. Сеўскі манетны двор (паводле тагачасных дакументаў — дзенежны двор, г. Сеўск, Арлоўская губ.). Выпускаў у 1686—87 *чэх сеўскі* на станках вальцверка (гл. ў арт. *Тэхніка манетнай справы*): спачатку пробную партыю манет 19.09.1686, потым спарадычна з-за цяжкасцей тэхнічнага і арганізацыйнага парадку. Закрыты ў сувязі з байкотам насельніцтвам выпуску сеўскай нізкапробнай манеты. **Прыватнае прадпрыемства.** Завод Разенкранца (Пецярбург). Выпускаў у 1899—1901 агульнадзярж. медныя манеты (за выключэннем 5 капеек). Адзнака двара ў полі манеты — **спб** (Санкт-Пецярбург).


Да арт. **Манетныя двары Расійскай дзяржавы.** Кадашаўскі манетны двор. Малюнак канца 18 ст.


Да арт. **Манетныя двары Расійскай дзяржавы.** Красны манетны двор. Гравюра 18 ст.

*Літ.:* 1556, 1612а, 1620, 1721.

*В. Н. Рабцэвіч.*

## МАНЕТНЫЯ ДВАРЫ РЭЧЫ ПАСПАЛІТАЙ 16—18 ст.

**Вялікае княства Літоўскае:** *Брэсцкі манетны двор, Віленскі манетны двор* (адзнакі двара ў полі манеты — **v** на траяках 1601—03, **w** на траяках 1601). *Гродзенскі манетны двор, Ковенскі манетны двор.* **Польшча (Карона).** 1. Агульнадзяржаўныя штатныя манетныя двары. Быдгашчанскі манетны двор (г. Быдгашч). Выпускаў у 1608—48, 1650—52, 1660—68, 1671, 1677—86 *солід, грош, паўтарак,* двояк, *крэйцар трайны, тры грошы, шэсць грошаў, орт, злоты,* паўталер, *талер, дукат,* дукат двайны, *партугал, манету-данатыву* ў 20 і 50 дукатаў. Адзнакі двара на манетах адсутнічаюць. *Варшаўскі манетны двор.* Усхоўскі манетны двор (г. Усхоў). Выпускаў у 1587—1601, 1650—55 *тэрнарыі,* соліды, два, тры, шэсць грошаў, орты, паўталеры, талеры, паўдукаты, дукаты, двайныя дукаты. Ад-

знакі двара — **SWE** (траяк 1603), **F** (соліды 1598, 1599, 1601 і недатаваны, траякі 1598—1601, шастак 1599), **MW** (двояк 1651, орты 1651, 1653, паўталер 1652, талер 1652, паўдуката 1653—54 і недатаваны, дукаты 1651, 1653, дукаты двайныя 1651, 1652), **MW** (двоякі 1651, 1652, 1654, орты 1651—55, дукаты 1652—55, дукаты двайныя 1652, 1654), **W** (двояк 1654). Кракаўскі манетны двор (г. Кракаў). Выпускаў у 1598—1627, 1649—50, 1655—68, 1679—87, 1765—68 *дэнарый*, тэрнарый, солід, *паўгрош польскі, грош польскі*, паўтарак, траяк, шастак, орт, паўталер, талер, паўдукат, дукат, дукат двайны. Адзнакі двара — С (грошы 1603—04, траякі 1606, 1684—85, шастакі 1680—85), К (тэрнарый 1601, солід 1601, грош 1605, траякі 1598, 1600—07, шастак 1680). Львоўскі манетны двор (г. Львоў). Выпускаў у 1656—58, 1660—63 паўтарак, шастак, орт, злоты (?), талер, дукат, дукат двайны. Люблінскі манетны двор (г. Люблін). Выпускаў у 1595—1601 грош, траяк, шастак. Адзнака двара — L (траякі 1598—1601). Мальбаркскі манетны двор (г. Мальбарк). Выпускаў у 1584—85, 1592—1601 тэрнарый, солід, траяк, шастак, дукат, дукат трайны, паўпартугал, партугал. Адзнака двара — М (шастакі 1600—01). Олькушскі манетны двор (г. Олькуш). Выпускаў у 1578—1601 солід, паўгрош, грош, траяк, паўталер, талер, талер двайны, дукат, партугал. Адзнака двара — I (траякі 1600—01). Пазнанскі манетны двор (г. Познань). Выпускаў у 1584—1601, 1651—59 дэнарый, тэрнарый, солід, грош, паўтарак, траяк, шастак, орт, талер, дукат, дукат двайны, дукат трайны, партугал. Адзнакі двара — Р (солід 1599, траякі 1599—1601), **posnan** (орты 1651—52, талер 1652). Уяздаўскі манетны двор (г. Уяздаў). Выпускаў у 1659—66 солід-*барацінку*. 2. Штатныя манетныя двары, якія чаканілі манету для ВКЛ. Аліўскі манетны двор (г. Аліва). Выпускаў у 1663, 1665—66 солід-барацінку. Мальбаркскі манетны двор (г. Мальбарк). Выпускаў у 1666 солід-барацінку. Уяздаўскі манетны двор (г. Уяздаў). Выпускаў у 1660—61, 1665—66 солід-барацінку. 3. Гарадскія манетныя двары. Гданьскі манетны двор (г. Гданьск). Выпускаў у 1573, 1577—99, 1601, 1608—68, 1670—73, 1676—92, 1698, 1715, 1734, 1753—67, 1793 дэнарый, тэрнарый, солід, грош, двояк, траяк, шастак, орт, злоты, злоты двайны, паўталер, талер, талер двайны, дукат, паўтара дуката, дукат двайны, 4 дукаты. Адзнакі двара — **Ged. Gedan. Gedanen. Gedanens. Gedanensis.** Усхоўскі манетны двор (г. Усхоў). Выпускаў у 1588—1616 дэнарый. Адзнакі двара — **cwf** (1588—93, 1596, 1599—1600, 1602—04 і недатаваны), **W** (1608—10 і недатаваны). Пазнанскі манетны двор (г. Познань). Выпускаў у 1601—27 дэнарый, тэрнарый. Адзнака двара — Р (тэрнарыі 1605—06, 1608—09). Торунскі манетны двор (г. Торунь). Выпускаў у 1629—55, 1660—71, 1760—65 солід, двояк, траяк, шастак, орт, паўталер, талер, дукат, дукат двайны, дукат трайны, 4 дукаты, 5 дукатаў. Адзнакі двара — **thorv., thorvn., thorvnen., thorvnens., thorvnensis.** Рыжскі манетны двор (г. Рыга). Выпускаў у 1581—1621 дэнарый, солід, грош, паўтарак, траяк, дукат, партугал. Адзнакі двара — **ri., rige., rigen., rigens., rigensis.** Эльблёнгскі манетны двор (г. Эльблёнг). Выпускаў у 1636, 1650—56, 1660—67, 1671—73, 1713, 1760—63 солід, двояк, траяк, шастак, орт, тымф, талер, дукат, дукат двайны. Адзнакі двара — **elbin., elbing., elbinga., elbingen, elbingens, elbingensis.** Прыватныя манетныя двары. Быдгашчанскі манетны двор (уладальнік С. Цыкоўскі, г. Быдгашч). Выпускаў у 1594—1601 солід, грош, траяк, шастак. Адзнакі двара — В (соліды 1599—1601, грошы 1598—99, траякі 1598—1601) або ВВ (соліды 1600—01). Лабжаніцкі манетны двор (уладальнік А. Кратоскі, г. Лабжаніца). Выпускаў у 1612—30 дэнарый, тэрнарый. Адзнакі двара — L (дэнарый 1615 і недатаваны, тэрнарыі 1625—27), **LOB** (тэрнарыі 1627, 1630), **LOB Z** (тэрнарыі 1627—28, 1630). Ёсць звесткі, што двор функцыянíраваў у 1586—1601, выпускаючы агульнадзярж. манеты нізкіх (ад дэнарыя да гроша) наміналаў.

*Літ.:* 1665, 1666, 1671, 1676, 1695, 1715. *В. Н. Рабцэвіч.*

**МАНЕТНЫЯ ДВАРЫ САКСОНІІ,** якія чаканілі манеты для Рэчы Паспалітай.

У 1697—1763 трон Рэчы Паспалітай належаў саксонскім курфюрстам Фрыдрыху Аўгусту I і Фрыдрыху Аўгусту II, таму польскую манету чаканілі: Лейпцыгскі манетны двор — паўтаракі 1753, 1755—56 (білон, *лотавая проба* V, *лігатурная маса* 1,08 г.), траякі 1753—54, 1756 (білон, проба V, маса 2,16 г), шастакі 1698, 1702, 1704, 1706 (білон, проба VI, маса 3,36 г), 1753—56 (проба V, маса 4,32 г), *орт*-тымф 1698, 1704 (серабро, проба X, маса 6,32 г), 1752—56 (білон, проба V, маса 5,84 г), *злоты* двайны 1753, 1756, 1761—62 (серабро, проба XII, маса 7,31 г), паўталера 1753—55 (серабро, проба XII, маса 14,62 г), талер 1753—56, 1762 (серабро, проба XII, маса 29,23 г), паўдукат 1703 і недатаваны з імем Аўгуста III (золата, каратная проба 23 $^{7}/_{24}$, маса 1,74 г), дукат 1702—03, 1752—54, 1755 (золата, проба 23 $^{7}/_{24}$, маса 3,48 г), дукат двайны 1753—54 (золата, проба 23$^{7}/_{24}$, маса 6,96 г), паўаўгустдор 1753 (золата, проба 23 $^{7}/_{24}$, маса 3,32 г), аўгустдор 1753—56, 1758 (золата, проба 23 $^{7}/_{24}$, маса 6,63 г), аўгустдор двайны (1752—53, 1756 (золата, проба 23$^{7}/_{24}$, маса 13,25 г); Дрэздэнскі манетны двор — солід 1749 (медзь, маса 1,30 г); Грунтальскі манетны двор (г. Грунталь) — солід 1650 (медзь, маса 1,30 г); Губенскі манетны двор (г. Губен) — солід 1751—53 (медзь, маса 1,30 г), 1654—55 (маса 1,23 г).

*Літ.:* 1671, 1695. *В. Н. Рабцэвіч.*

**МАНЕТНЫЯ ДВАРЫ СССР.** Ленінградскі манетны двор (да 1924 Петраградскі манетны двор, з ліст. 1991 Санкт-Пецярбургскі манетны двор; гл. ў арт. *Манетны двор РСФСР*) Міністэрства фінансаў СССР (Дзяржзнака). Да сярэдзіны 1941 выпускаў усю металічную дзярж. манету ў 1, 2, 3, 5, 10, 15, 20 капеек (гл. адпаведныя арт.), а таксама *паўкапейкі*, банкавую сярэбраную *палціну* (1924—27), залатыя *рубель* (1924) і *чырвонец*. У Вял. Айчынную вайну восенню 1941 амаль поўнасцю эвакуіраваны ў Краснакамск. У час блакады Ленінграда ажыццяўляў выпуск медаля «За абарону Ленінграда». Акрамя манет выпускае сувенірныя і памятныя медалі і значкі, нумізматычныя наборы рэгулярных і памятных манет для калекцыянераў і інш., нанава ўведзены традыцыйная рус. манета *пяцьдзесят капеек* і рубель (з 1961). З 1965 узнавіў чаканку *манеты мемарыяльнай* у 1, 3, 5, 10, 25, 50, 100 і 150 рублёў. Краснакамскі манетны двор (г. Краснакамск, Пермская вобл.), філіял Ленінградскага манетнага двара. Выпускаў у 1941—46 ордэны і медалі для ўзнагарод, 1, 2, 3 і 5 капеек (алюмініевая бронза), 10, 15 і 20 капеек (мельхіёр). З 1942 вырабляў для Маскоўскага, з 1943 і для Ленінградскага манетных двароў загатоўкі для вырабу ўзнагарод і інструмент для штампоўкі. Маскоўскі манетны двор Міністэрства фінансаў СССР. Арганізаваны ў 1942 для дапамогі Краснакамскаму манетнаму двару ў выпуску медалёў «За адвагу» і «За баявыя заслугі». Пасля 1945 чаканіў медалі памятныя і для ўзнагарод, знакі і інш. З 1977 выпускае манеты ў 1, 2, 3, і 5 капеек (1981—90, медна-цынкавы сплаў), 10, 15 і 20 капеек (1981—90, медна-нікелевы сплаў), 50 капеек і 1 рубель (1981—90, медна-нікелевы сплаў), 5 і 10 рублёў (1977—80, серабро), 3 рублі (1988—90, серабро), 100 рублёў (1977—80, золата), залатыя і сярэбраныя манеты ў гонар XXII Алімпійскіх гульняў у Маскве (гл. таксама *Манеты мемарыяльныя СССР).*

*Літ.:* 1632. *М. І. Смірноў.*

**МАНЕТНЫЯ ДВАРЫ ФАЛЬШЫВАМАНЕТЧЫКАЎ** 15—17 ст., нелегальныя буйныя прадпрыемствы па вытворчасці *манет фальшывых* для эмісій, несанкцыянíраваных уладай (суб'ектам манетнага права) з мэтай незаконнага авалодання *манетнай рэгаліяй.*

Існавалі ў выглядзе прыватнага манетнага двара, што працуе са згоды і па даручэнні ўлады краіны для падробкі замежных манет, або асобных аддзелаў дзярж. манетнага двара, якому даручалася падробка замежных манет ад прыватных асоб, кампаній або дзяржавы. У ВКЛ абарачаліся манеты падробленыя на манетных дварах: у Полацку ў 1490-я г. манетны двор падрабляў недатаваныя соліды (шылінгі) магістра Лівонскага ордэна І. Ф. фон Ларэнгофена (тэхніка выканання — ручная штампоўка); у Надзьбаньі (Венгерскае Каралеўства) у 1664 па заказу кн. М. К. Радзівіла чаканіў медныя соліды Польшчы інспектар руднікоў і манетнага двара Б. Прочнер на дзярж. манетным дворы (тэхніка выканання — ручная штампоўка); у Берзауне (1667—69, двор створаны па ініцыятыве рыжскага купца Х. Дрэйлінга), у Відземе (прыбалтыйскае ўладанне Швецыі) падраблялі ў асноўным медныя соліды 1666 ВКЛ Яна II Казіміра Вазы і зрэдку соліды-барацінкі 1664 Каралеўства Польскага (тэхніка выканання — ручная штампоўка), у Лісянцы (Каралеўства Польскае) адкрыты М. д. ф. прыблізна ў 1669—73 паводле загаду гетмана правабярэжнай Украіны П. Дарашэнкі ў час барацьбы ў саюзе з Турцыяй супраць Рэчы Паспалітай (кіраваў дваром польскі манетчык

Я. Гранкоўскі), якія падрабляў соліды, паўтаракі, шастакі (тэхніка выканання — вальцоўка); у Сучаве (Малдаўскае княства) па загаду гаспадароў Дабіжа Водэ, Аляксандра Эліяша, Георгія Дуцэ падраблялі соліды Рэчы Паспалітай часоў Яна II Казіміра Вазы [1649—68], герцагства Прусіі часоў Фрыдрыха Вільгельма [1640—88], прыбалтыйскіх уладанняў Швецыі часоў Густава II Адольфа [1611—32], Крысціны Аўгусты [1632—54], Карла X Густава [1654—60], Карла XI [1660—97], лівонскай, рыжскай і эльблёнгскай чеканак (тэхніка выканання — вальцоўка); у Ляйпцыгу (дамене караля Рэчы Паспалітай Аўгуста III) у 1756—62, калі абсталяванне манетнага двара (выпускаў манету для Рэчы Паспалітай) было захоплена войскамі караля Прусіі Фрыдрыха II, падраблялі залатыя, сярэбраныя і медныя манеты Рэчы Паспалітай (эфраімкі). Не ўсе М. д. ф. дакладна вызначаны. Напр., у 2-й пал. 17 ст. ў Рэчы Паспалітай былі пашыраны падробкі талераў 1662, 1667 Іспанскіх Нідэрландаў Філіпа IV і Карла II, якія, магчыма, выпускалі ў Сучаве пад кіраўніцтвам заг. манетнага двара Аляксандра з ведама гаспадара Георгія Дуцэ ў пач. 1670-х г. і вядомы з датамі 1662, 1667. Да М. д. ф. не адносяцца манетныя двары, якія тайна выраблялі падробкі дабраякасных залатых манет для патрэб уласнага грашовага абарачэння без выкарыстання манетнай рэгаліі (Пецярбургскі манетны двор выпускаў *лабанчык*, *Варшаўскі манетны двор — манеты мяцежныя* Каралеўства Польскага, *дукат)*, таксама манетныя двары, якія выраблялі аднатыпную замежнай *манету-перайманне*, але ад імя сваёй дзяржавы або манарха для збыту яе за мяжой [манетныя двары ў Кёнігсбергу, Вроцлаве і Шчэціне, якія з 1753 ад імя Фрыдрыха II выпускалі манеты, аднатыпныя польскім Аўгуста III, манетны двор у Сеўску ў 1686—87 выпускаў *чэх сеўскі* ад імя Івана і Пятра Аляксеевічаў, падобныя да паўтаракаў Рэчы Паспалітай Зыгмунта III Вазы, Красны і Кадашаўскі манетныя двары (гл. ў арт. *Манетныя двары Расійскай дзяржавы)* выпускалі шастакі і тынфы Пятра I, падобныя шастакам і ортам Рэчы Паспалітай].

*Літ.:* 1533, 1593, 1672, 1675, 1706, 1717, 1721. *І. І. Сінчук.*

**МАНЕ́ТНЫЯ СКА́РБЫ,** грашовыя каштоўнасці, ухаваныя ў тайніку (часцей у зямлі), якія сведчаць пра развіццё грашовага абарачэння і эканам. сувязі з рознымі краінамі. На тэр. Беларусі выяўлена больш за 1100 скарбаў з антычных часоў *да 20 ст., у т. л. ў Брэсцкай вобл. больш за 100 скарбаў, у Віцебскай — больш за 200, у Гомельскай — больш за 170, у Гродзенскай — каля 140, у Магілёўскай — больш за 200 і ў Мінскай вобл. больш за 200 скарбаў.*




Аўтар карты В. Н. Рабцэвіч

Частка манетных скарбаў зберагаецца ў *Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі. Мінскім абласным краязнаўчым музеі*, раённых музеях.

**МАНЕ́ТЧЫК,** 1) у тэрміналогіі дакументаў расійскіх манетных двароў 18 ст. тэхнічны работнік манетнага перадзелу (цэха), які выконвае працы па штампоўцы манеты. 2) У нумізматычнай літаратуры М. часам названы тэхнічны кіраўнік або *мінцмайстар* манетнага двара.

**МАНЕ́ТЫ ВЯЛІ́КАГА КНЯ́СТВА ПАЗНА́НСКАГА,** манеты, чаканеныя ў 1816—17 для абарачэння на тэр. Вял. кн. Пазнанскага (аўтаноміі каралеўства Прусіі), створанага паводле рашэння Венскага кангрэса 1814—15 на частцы б. герцагства Варшаўскага.

Выпускалі Берлінскі манетны двор (знак А, 1816—17) і Брэслаўскі (Вроцлаўскі) манетны двор (знак В, 1816) па польскай манетнай стапе — *грош* (маса 2,6 г) і *тры грошы* (маса 7,4—7,5 г). На аверсе манет — на авальным геральдычным шчыце выява прускага аднагаловага арла з каронай на галаве, скіпетрам у правай і дзяржавай у левай лапах; шчыт абрамлены 2 галінкамі, пад ім — вял. каралеўская карона; на рэверсе гроша легенды (на нямецкай мове) паўкружная — **180 einen thaler** (180 [на] адзін талер) і радковая — **1(groschen) er herz/posen** (1 /грош/ Вял[ікага] гер[цагства] Познань), дата і знак манетнага двара; на рэверсе трох грошаў паўкружная легенда — **60 einen thaler** (60 [на] адзін талер) і лічба наміналу — 3.

*В. Н Рабцэвіч.*

**МАНЕ́ТЫ ГЕ́РЦАГСТВА ВАРШАЎСКАГА.** Чаканка вялася ў 1810—14 ад імя караля Саксоніі Фрыдрыха Аўгуста I для герцагства (княства) Варшаўскага на *Варшаўскім манетным двары* па прускай *стапе* манетнай медных і білонных наміналаў у адпаведнасці з польскай *манетнай сістэмай*, сярэбраных — саксонскай. Пасля скасавання герцагства ў 1815 на большасці яго б. тэрыторыі абарачаліся *манеты Каралеўства Польскага.*

На *аверсе* медных і білонных манет — герб герцагства Варшаўскага, на *рэверсе* — адзнака наміналу (на польскай мове). На аверсе сярэбраных манет — профільны (управа) партрэт Фрыдрыха Аўгуста I і кругавая легенда (каралеўская і герцагская тытулатура караля на лацінскай мове), на рэверсе — герб герцагства і адзнака наміналу (на польскай мове). На аверсе залатых манет афармленне,як і на сярэбраных, на рэверсе — герб герцагства і адзнака наміналу (на лацінскай мове). Чаканены медныя 1 грош 1810—12, 1814 (маса 2,86 г), 3 грошы 1810—14 (маса 8,75 г); білонныя 5 грошаў 1811—12 (*лотавая проба* III $^1/_{10}$, *лігатурная маса* 1,45 г), 10 грошаў 1810, 1812—13 (проба III $^1/_{10}$, маса 2,90 г); сярэбраныя $^1/_6$ *талера* 1811—14 (парытэт — злоты=30 медным грошам, проба VIII $^3/_4$, маса 5,02 г), $^1/_3$ талера 1810—14 (парытэт — 2 злотыя=60 медным грошам, проба X, маса 8,64 г), талер 1811—12, 1814 (парытэт — 6 злотых=180 медным грошам, проба IX $^1/_3$, маса 22,96 г); залаты дукат 1812—13 (парытэт — 3 талеры=18 злотых=540 медным грошам, *каратная проба* 23 $^3/_5$, маса 3,49 г).

*Літ.:* 1671, 1682, 1716. *В. Н. Рабцэвіч.*

**МАНЕ́ТЫ ДВУХМО́ЎНЫЯ** р у с к а - п о л ь с к і я, манеты для абарачэння на тэр. Польшчы, якія прыйшлі на змену *манетам Каралеўства Польскага* ў складзе Расійскай імперыі ў 1832—50.

Выпускалі *Варшаўскі манетны двор* і Пецярбургскі манетны двор (гл. ў арт. *Манетныя двары Расійскай дзяржавы*). На *аверсе* манет — двухгаловы расійскі арол, на грудзях якога герб Масквы (св. Георгій-перамаганосец забівае змея), на *рэверсе* — двайное пазначэнне наміналу ў капейках і рублях на рус., у грошах і злотых — на польскай мовах. В а р ш а ў с к і  м а н е т н ы  д в о р: сярэбраныя манеты з наміналамі — **15 копѣекъ. 1 złoty**. 1834—41 (*залатніковая проба* 83 $^1/_3$, лігатурная маса 3, 11 г), **20 копѣекъ 40 groszy** 1842—45, 1848. 1850 (проба тая ж, маса 4,15 г), **25 копѣекъ**




**Манеты герцагства Варшаўскага.** Фрыдрых Аўгуст: 1. 1 грош 1810; 2. 3 грошы 1810; 3. 5 грошаў 1811; 4. 10 грошаў 1812; 5. $^1/_6$ талера 1814; 6. $^1/_3$ талера 1814; 7. Талер 1814; 8. Дукат 1812.




**Манеты двухмоўныя.** Мікалай I: 1. 5 капеек — 10 грошаў 1842; 2. 10 капеек — 20 грошаў 1842; 3. 15 капеек — 1 злоты 1832; 4. 20 капеек — 40 грошаў 1842; 5. 25 капеек — 50 грошаў 1842; 6. 30 капеек — 2 злотыя 1839; 7. $^{3}/_{4}$ рубля — 5 злотых 1839; 8. 1 $^{1}/_{2}$ рубля — 10 злотых 1839; 9. 3 рублі — 20 злотых 1834; 10—11. Манеты-данатывы 1 $^{1}/_{2}$ рубля — 10 злотых 1835. 1836.

**50 groszy** 1842—48, 1850 (проба тая ж, маса 5,18 г), **30 копѣекъ 2 złoty** 1834—41 (проба тая ж, маса 6,22 г), **$^{3}/_{4}$ рубля. 5 złot** 1834—41 (проба тая ж, маса 15,55 г), **1$^{1}/_{2}$ рубля. 10 złot.** 1835—41 (проба тая ж, маса 31,10 г); залатая манета з наміналам **3 рубля. 20 złotych.** 1834—39 (проба 88, маса 3,93 г); Пецярбургскі манетны двор: сярэбраныя манеты з наміналамі — **15 копѣекъ. 1 złoty** 1832—40, **$^{3}/_{4}$ рубля. 5 złot.** 1833—38, 1840, **1$^{1}/_{2}$ рубля. 10 złot** 1833—37, 1839—40 (вядомы выпускі двухмоўных *манет-данатыў*, у 1836 ёсць экз., чаканеныя ў золаце); залатая манета з наміналам **3 рубля. 20 złotych** 1834—40 (проба і маса адпаведных наміна… Варшаўскага манетнага двара).

*Літ.:* 1620, 1671, 1682. *В. Н. Рабцэвіч.*

**МАНЕТЫ «ЗЕМЛЯЎ ПРУСКІХ»,**

білонныя і сярэбраныя манеты, чаканеныя пры Жыгімонце І Старым для абарачэння на тэр. ўсх. часткі Прусіі, якая належала Рэчы Паспалітай. Выпускаў паводле рашэння Мальбаркскага сойма 1528 Торуньскі манетны двор: *дэнарыі* недатаваныя (*лотавая проба* 1 ¹/₂, *лігатурная маса* 0,36 г), *шылінгі* 1528—34 (проба III, маса 1,24 г), *грошы* 1528—35 (проба VI, маса 2,06 г), *тры грошы* 1528—30, 1532, 1534—35 (проба XIV, маса 2,67 г), *шэсць грошаў* 1528, 1530, 1532, 1534—35 (проба XIV, маса 5,34 г).

*Літ.:* 1671, 1730.



**Манеты «земляў прускіх».** П о л ь ш ч а: траякі 1529 і 1535 Жыгімонта І Старога.

**МАНЕТЫ КАРАЛЕЎСТВА ПОЛЬСКАГА.** Чаканка вялася ў 1816—32 ад імя расійскіх імператараў для Каралеўства (Царства) Польскага (у складзе Расійскай імперыі) на *Варшаўскім манетным двары* ў традыцыйных польскіх наміналах (за выключэннем *талера* і *дуката*) па традыцыйнай польскай манетнай *стапе*, якая грунтавалася на вагавай кёльнскай *марцы*.

А л я к с а н д р І. Манеты з наміналамі 1—10 грошаў мелі на *аверсе* — двухгаловы расійскі арол, на грудзях якога аднагаловы польскі арол, на *рэверсе* — адзнака наміналу. Манеты з наміналамі 1—50 злотых мелі на аверсе — профільны (управа) партрэт Аляксандра І і кругавую легенду (яго імя і тытулатура імператарская і каралеўская), на рэверсе — як на манетах нізкіх наміналаў. Медныя 1 грош 1816—28, адзнака наміналу — 1 grosz polski (*лігатурная*

**Манеты Каралеўства Польскага** (у складзе Расійскай імперыі). А л я к с а н д р І: 1—2. 1 грош 1816, 1822; 3. 3 грошы 1817; 4. 5 грошаў 1820; 5. 10 грошаў 1822; 6—7. 1 злоты 1819, 1822; 8. 2 злотыя 1816; 9. 5 злотых 1818; 10. 10 злотых 1821; 11. 25 злотых 1822; 12. 50 злотых 1817.

*маса* 2,86 г), 3 грошы 1817—20, адзнака наміналу — **3 grosze polskie** (маса 8,57 г); білонныя 5 грошаў 1816—25, адзнака наміналу **5 groszy polskie** (*лотавая проба* III $^{1}/_{10}$, маса 1,45 г); 10 грошаў 1816, 1820—25, адзнака наміналу **10 groszy pols.** (проба III $^{1}/_{10}$, маса 2,90 г); сярэбраныя 1 злоты 1818—19, 1822—25, адзнака наміналу **1 złoty polski** (проба XI $^{1}/_{2}$, маса 4,54 г), 2 злотыя 1816—25, адзнака наміналу — **2 złote polskie** (проба IX $^{1}/_{2}$, маса 9,08 г), 5 злотых 1816—18, адзнака наміналу — **5 złotych polskich** (проба XIII $1^{9}/_{10}$, маса 15,53 г), 10 злотых 1820—25, адзнака наміналу **10 złotych polskich** (проба XIII $^{9}/_{10}$, маса 31,07 г); залатыя 25 злотых 1817—19, 1822—25, адзнака наміналу **25 złot · polsk.** (*каратная проба* 22, маса 4,90 г), 50 злотых 1817—23, адзнака наміналу — **50 złot · polsk.** (проба 22, маса 9,81 г). Мікалай I. На грошах аверс і рэверс не змяніліся. На злотых (1—50) аверс не зменены, на рэверсе — легенды з імем і тытулатурай імператарскай і каралеўскай Мікалая I і адзнака наміналу. Медныя 1 грош 1828—32, адзнака наміналу — **1 grosz polski** (маса 2,86 г), 3 грошы 1826—32, адзнака наміналу **3 grosze polskie** (маса 8,57 г); білонныя 5 грошаў 1826—32, адзнака наміналу **5 groszy pols ·** (лотавая проба III $^{1}/_{10}$, маса 1,45 г), 10 грошаў 1826—28, 1830—31, адзнака наміналу — **10 groszy pols ·** (проба III $^{1}/_{10}$, маса 2,90 г); сярэбраныя 1 злоты 1827—32, адзнака наміналу — **1 zło · pol·** (проба XIII $^{9}/_{10}$, маса 3,11 г), 2 злотыя 1826, 1828, 1830, адзнака наміналу — **2 zło · pol ·** (проба XIII $^{9}/_{10}$, маса 6,22 г), 5 злотых 1829—32, адзнака наміналу — **5 złotych polskich** (проба XIII $^{9}/_{10}$, маса 15,55 г), 10 злотых 1827, адзнака наміналу — **10 złotych polskich** (проба XIII $^{9}/_{10}$, маса 31,09 г); залатыя 25 злотых 1828—29, 1832, адзнака наміналу — **25 zło · pol ·** (каратная проба 22, маса 4,90 г), 50 злотых 1827, 1829, адзнака наміналу — **50 zło · pol** (проба 22, маса 9,81 г). Чаканілі таксама *манеты двухмоўныя*. Пасля ліквідацыі аўтаноміі Каралеўства Польскага двор выпускаў наміналы ў 1 і 3 грошы (1833—35), 1 і 5 (1833—35) і 25 (1833) злотых без змены тыпаў, якасных і метралагічных характарыстык.

*Літ.:* 1620, 1671, 1682. *В. Н. Рабцэвіч.*




**Манеты Каралеўства Польскага.** Мікалай I; 13—16. 1 грош 1826. 1826, 1838, 1840; 17—18. 3 грошы 1830, 1839; 19—20. 5 грошаў 1839, 1841; 21. 10 грошаў 1839; 22. 1 злоты 1832; 23. 2 злотыя 1830; 24. 5 злотых 1832; 25. 10 злотых 1827; 26. 25 злотых 1832; 27. 50 злотых 1827.

**МАНЕ́ТЫ МЕМАРЫЯ́ЛЬНЫЯ РАСІ́ЙСКАЙ ІМПЕ́РЫІ,** памятныя манеты, якія чаканіў Пецярбургскі

манетны двор у 1832—1914 з нагоды адкрыцця помнікаў, каранацый, юбілеяў, знамянальных падзей і інш. Асобныя мемарыяльныя манеты Расійскай імперыі гл. на іл.

**МАНЕ́ТЫ МЕМАРЫЯ́ЛЬНЫЯ СССР,** манеты, выпуск якіх прысвечаны знамянальным дзярж. і гіст. падзеям, ушанаванню памяці выдатных дзеячаў культуры і навукі і інш. Адноўлена традыцыя расійскай манетнай вытворчасці *манеты мемарыяльнай.* Чаканілі *манетныя двары СССР* з 1965 рознымі наміналамі з медна-нікелевага сплаву, а таксама серабра, паладыю, золата і плаціны. Манеты з каштоўных металаў прызначаны для антыкварнага міжнар. і часткова айчыннага рынкаў. З 1975 з такой жа мэтай выпускаюцца манеты-перайманні чырвонца РСФСР узору 1923, але з датай адпаведна году чаканкі. Асобныя мемарыяльныя манеты СССР гл. на іл.

**МАНЕ́ТЫ МЯЦЁЖНЫЯ** Каралеўства Польскага, манеты рэвалюцыйныя, назва манет, прынятая ў афіцыйным расійскім справаводстве 1830-х г. у адносінах да прадукцыі Варшаўскага манетнага двара, выпушчанай у 1831 па ініцыятыве ўрада, які ўзначаліў нац.-вызваленчае паўстанне 1830—31 у Польшчы, на Беларусі і ў Літве. Пасля дэтранізацыі як караля Польшчы Мікалая I соймам (25.1.1831) у Варшаве спынена эмісія аўтаномных манет (вялася з 1816), афармленне якіх сімвалізавала адсутнасць дзярж. суверэнітэту краіны (з выявай аднагаловага польскага арла на грудзях двухгаловага расійскага арла, партрэтам і тытулатурай Аляксандра I і тытулатурай Мікалая I). У сакавіку 1831 было прынята рашэнне аб адкрыцці чаканкі манет, медальерам Варшаўскага манетнага двара даручаны выраб штэмпеляў для эмісіі дуката, які імітаваў галандскую чаканку.

Выпусцілі медную (3 грошы, *лігатурная маса* 8,57 г), білонную (10 грошаў, маса 2,90 г, *лотавая проба* 18 $^{2}/_{3}$) і сярэбраныя (2 злотыя, маса 9,09 г, проба 57; 5 злотых, маса 15,54 г, проба 83 $^{1}/_{3}$), манеты на агульную суму ў



**Манеты мемарыяльныя Расійскай дзяржавы:** 1. 5 рублёў (золата), 1832 (у гонар пачатку выкарыстання ў манетнай вытворчасці золата Калывана-Васкрасенскіх прыіскаў); 2. 1 рубель (серабро), 1834 (у памяць адкрыцця Аляксандраўскай калоны ў Пецярбургу); 3—4. 1 і паўтара рубля (серабро), 1839 (у памяць адкрыцця капліцы на Барадзінскім полі); 5. 1 рубель (серабро, вядома некалькі экземпляраў залатых манет), 1841 (да шлюбу Аляксандра Мікалаевіча з прынцэсай Марыяй Аляксандраўнай); 6. 1 рубель (серабро) 1859 (у памяць адкрыцця помніка Мікалаю I у Пецярбургу); 7. 1 рубель (серабро), 1883 (у памяць каранацыі Аляксандра III).

2 123 893 злотых. Наміналы ў 5 грошаў (білон, маса 1,45 г, проба 8 $^{2}/_{3}$) і 1 злоты (серабро, маса 4,54 г, проба 57) выканаіы толькі ў пробных экземплярах. Легенды на польскай мове. На *аверсе* — увянчаны каралеўскай каронай двухдольны геральдычны шчыт з гербам Рэчы Паспалітай («белы арол» Польшчы і «Пагоня» ВКЛ), легенда **królestwo polskie** (Каралеўства Польскае), на *рэверсе* — наміналы **3 grosze pols.** (3 грошы польскія), **5 groszy pols.** (5 грошаў польскіх), **10 groszy pols.** (10 грошаў польскіх), **1 złoty pols.** (1 злоты польскі), **2 złot. pol.** (2 злотыя польскія), **5 złot. pol.** (5 злотых польскіх). На аверсе 3-грашовіка і рэверсах іншых наміналаў — ініцыял KG (гл. ў арт. *Варшаўскі манетны двор*). На рэверсах злотага, 2 злотых і 5 злотых, акрамя наміналу пазначана манетная стапа — 86 $^{86}/_{125}$ **z grzyw · czyst. kol.** (86 $^{86}/_{125}$ [экз.] з кёльнскай грыўні чыстага серабра), 43 $^{43}/_{125}$ (той жа надпіс), 17 $^{211}/_{625}$ (той жа надпіс). У 5 злотых на *гурце* легенда **boże zbaw polske** (божа, ратуй Польшчу). Дата 1831 змешчана на аверсах 5 грошаў і 10 грошаў, у астатніх наміналаў — на рэверсах. Дукат, які капіраваў *лабанчык* Пецярбургскага манетнага двара, перад пачаткам аверснай легенды замест адзнакі Утрэхцкага манетнага двара (жэзл-кадуцэй Меркурыя) змяшчаў мініяцюрную выяву «белага арла» (*лігатурная маса* 3,49 г, *метрычная проба* 980). Выпушчаны тыражом 162 347 экз. Пасля паражэння паўстання М. м. да 1.7.1838 Часовае праўленне Царства Польскага дазваляла прымаць у выглядзе казённых збораў і падаткаў для наступнай іх пераплаўкі (ліквідавана манет на суму 1 002 246 злотых 9 грошаў). Дукаты пакінуты ў абарачэнні, бо не мелі «рэвалюцыйнага герба». На тэр. Беларусі зафіксавана падробка 10-грашовікаў 1831 (гл. *Рагачоўскі манетны скарб*).

*Літ.:* 1525, 1529, 1620, 1682.

*В. Н. Рабцэвіч.*




**Манеты мемарыяльныя Расійскай дзяржавы:** 8. 1 рубель (серабро), 1896 (у памяць каранацыі Мікалая II); 9. 1 рубель (серабро), 1898 (у памяць адкрыцця помніка Аляксандру II у Маскве); 10. 1 рубель (серабро), 1912 (у памяць адкрыцця помніка Аляксандру III у Маскве); 11. 1 рубель (серабро), 1912 (у гонар 100-годдзя Айчыннай вайны 1812); 12. 1 рубель (серабро), 1913 (у гонар 300-годдзя царавання дома Раманавых); 13. 1 рубель (серабро), 1914 (у гонар 200-годдзя перамогі расійскага флоту над шведскім у час Паўночнай вайны 1700—21 каля паўвострава Гангут).

**МАНЕ́ТЫ ПАЎДНЁВАЙ ПРУ́СІІ,** медныя манеты для польскіх зямель (Варшаўскі, Калішскі і Пазнанскі дэпартаменты), якія адышлі да Каралеўства Прусіі ў выніку падзелаў Рэчы Паспалітай. Эмітаваліся па польскай манетнай сістэме Берлінскім (адзнака — A), Брэслаўскім (адзнака — B) і Кёнігсбергскім (адзнака — E) манетнымі дварамі.

Фрыдрых Вільгельм II. **Солід** 1796—97 (маса 1,30 г); на *аверсе* — авальны геральдычны шчыт з манаграмай (лац.) **fwr** (Фрыдрых Вільгельм кароль) і каралеўскай каронай над ёю; на *рэверсе* — радковая *легенда* (лац.) **1 solid[us] bor[ussiae] mer[idionalis]** (1 солід Прусіі Паўднёвай), дата і адзнака манетнага двара B або E. **Паўгрош** 1796—97 (маса 1,80 г); на аверсе — манаграма **fwr** на авальным шчыце, які абрамляюць дзве галінкі, над шчытом — карона, пад шчытом — адзнака манетнага двара B або E; на рэверсе — радковая легенда (лац.) $^{1}/_{2}$ **grossus borus[iae] merid[ionalis]** ($^{1}/_{2}$ гроша Прусіі Паўднёвай), дата. **Грош** 1796—97 (маса 3,60 г); на аверсе — профільны (управа) партрэт караля, кругавая легенда (лац.) **fridericus wilhelm[us] boruss[orum] rex** (Фрыдрых Вільгельм прускі кароль); на рэверсе — дзярж. герб Прусіі (аднагаловы арол на аваль-

ным шчыце), над ім — карона, пад ім — адзнака манетнага двара A, B або E, кругавая легенда **1 grossus borus[siae] meridional[is]** (1 грош Прусіі Паўднёвай), дата. **Тры грошы** 1796—97 (маса 11,10 г); на аверсе выява, як у гроша, на рэверсе таксама, але легенда (лац.) **grossus boruss[iae] merid[ionalis] triplex** (грош Прусіі Паўднёвай трайны). Фрыдрых Вільгельм III, чаканка ад імя Фрыдрыха Вільгельма II. **Грош** 1798 (маса і афармленне як у выпускаў 1796—97).

*Літ.:* 1682, 1716. *В. Н. Рабцэвіч.*

**МАНЕ́ТЫ РАСІ́ЙСКІЯ ДЛЯ ПРУ́СІІ,** білонныя і сярэбраныя манеты, якія эмітаваліся ў талернай сістэме ў 1759—62 для патрэб расійскай арміі, што ў ходзе Сямігадовай вайны 1756—63 заняла Усх. Прусію. Малюнкі *штэмпеляў* зроблены рус. афіцэрам А. Болатавым, *легенды* на лац. мове.

Кёнігсбергскі манетны двор у 1759—61 выпускаў солід (*залатніковая проба* 6, *лігатурная маса* 0,72 г), 1 грош (проба 15, маса 0,84 г), 2 грошы (проба 18, маса 1,46 г), 3 грошы (проба 26 $^2/_3$, маса 1,56 г), 18 грошаў (проба 48, маса 5,85 г), у 1759—62—6 грошаў (проба 29 $^1/_3$, маса 2,83 г). Красны манетны двор (Масква) у 1761 выпускаў солід (проба 6, маса 0,70 г), 1 грош (проба 15, маса 0,82 г), 2 грошы (проба 18, маса 1,44 г), 3 грошы (проба 26 $^2/_3$, маса 1,55 г), $^1/_6$ *талера* (паўгульдэн, проба 48, маса 4,31 г), $^1/_3$ талера (*гульдэн*, проба 54, маса 7,79 г), у 1761—62—6 грошаў (проба 29 $^1/_3$, маса 2,79).

*Літ.:* 1615, 1620, 1636. *В. С. Касмылёў.*

**МАНЕ́ТЫ РСФСР.** Чаканка манет пачалася ў 1921 на *манетным двары РСФСР* (г. Петраград). Паводле масы, памераў, *пробы* і *рэмедыуму* яны адпавядалі дарэвалюцыйным эмісіям адпаведных наміналаў. Выпушчаны ў 1921—22 сярэбраныя 10, 15, 20, 50 копеек і 1 *рубель*, у 1923 залаты *чырвонец*. Гатовая прадукцыя зберагалася ў сховішчах для накаплення дастатковага запасу і ў абарачэнне паступіла ў пач. 1924.

*Літ.:* 1531, 1628.

**МАНЕ́ТЫ СССР.** Першыя эмісіі сав. манет былі парытэтныя адпаведным *наміналам* апошніх дарэвалюцыйных манет і *манет РСФСР*. *Манетныя двары СССР* чаканілі *паўкапейку*, капейкі розных наміналаў, *палціннік*, *рубель*, *чырвонец*. З 1965 пачата эмісія *манет мемарыяльных СССР*. Неабходнасць у насычэнні рынку папулярнай манетай за кароткі час прымусіла заказаць чаканку палціннікаў і пятакоў у ліпені — кастрычніку 1924 у Англіі. Лонданскі манетны двор эмітаваў палціннікі (серабро, 40 млн. экз.) з адзнакамі гал. прабірэра двара Томаса Роса — ΘР або ТР. Бірмінгемскі манетны двор і прыватная фірма «Кінгс Нортан Мэтал Карпарэйшн Лімітэд» чаканіў 5 капеек (медзь, 40 млн. экз.).

*Літ.:* 1537, 1638.




**Манеты мемарыяльныя СССР:** 1—5. 10, 15, 20, 50 капеек, 1 рубель (медна-нікелевы сплаў), 1967 (да 50-годдзя Кастрычніцкай рэвалюцыі); 6—7. 5, 10 рублёў (серабро), 1977 (у гонар XXII Алімпійскіх гульняў у Маскве); 8. 3 рублі (серабро), 100 рублёў (золата), 1988 (да 1000-годдзя старажытнарускай манетнай чаканкі).

**МАНЕ́ТЫ-ПАДРО́БКІ** антыкварныя, фальшывыя грашовыя адзінкі высокай калекцыйна-камерцыйнай вартасці, вырабленыя для збывання іх калекцыянерам.

Упершыню паявіліся ў эпоху Адраджэння, з 16 ст. вядомыя пад назвай «падуанцы» (імітацыя рымскіх бронзавых манет), выкананы 622 штэмпелямі жыхаром г. Падуя (Італія) Дж. Кавіна. У Германіі Л. Зелендэр (1716—44) зрабіў каля 300 варыянтаў брактэатаў,

К. В. Бекер (1772—1830) — 662 віды падробак антычных, сярэдневяковых і новага часу манет, італьянец Л. Чыголі (1811—75) чаканіў манеты познарымскіх імператараў, паляк Ю. Майнерт зрабіў 99 штэмпеляў (1835—56) для польскіх і літоўскіх манет («майнерты» — падробкі польскіх талераў 1533, 1580, 1649, 1651, 1671, 1766, паўталера 1642, орта 1635, злотых 1665, 1671, 1762, шастака 1635, траяка 1635, літ. талера 1654 і інш.). У Расіі ўзніклі ў пач. 1830-х г. імітацыі антычных манет, срэбранікаў і златнікаў Уладзіміра, пулаў і дзенгаў велікакняжацкага перыяду, грыўняў кіеўскіх, паўпалцін, перагравіроўкай дэталей выяў, легенд і дат, гальванакапіраванне і інш. Гл. таксама *Манета фальшывая*.

*Літ.:* 1223, 1565, 1613, 1634, 1702.

*В. Н. Рабцэвіч.*

**МА́РКА** (ням. **Mark** знак), вагавая, грашовая і лікавая адзінка еўрап. дзяржаў у 11—20 ст., таксама нямецкая назва *жэтона лічыльнага*. 1) Вагавая адзінка для серабра і золата да сярэдзіны 11 ст.

Першапачаткова (з 781) складала $^{2}/_{3}$ каралінгскага фунта (367,13—491,179 г) у Германіі і мясц. фунтаў у інш. дзяржавах. У 11—12 ст. устанавіліся нормы розных лакальных М. у $^{1}/_{2}$ фунта. З-за таго, што фунт у розных рэгіёнах розніўся, вагавыя М. былі рознымі (венская — 241,588—243,085 г, дацкая — 217,55 г, Кракаўская — 197,68—197,98 г, польская — каля 210 і каля 204 г, пруская — каля 190 г, рыжская — 207,8 г, парыжская тройская — 244,758 г, нарвежская — 211—218, 0,53 г). На Русі М. адпавядалі грыўні паўднёвая (140—160 г) і паўночная (195—204 г) у 12—14 ст., з канца 15 ст. — грывенка (204,756 г).

2) Грашова-лікавая М. з'явілася ў сярэдзіне 11 ст. як аснова *стопы* манетнай дэнарыя, затым гроша і інш. наміналаў.

Спачатку яна адпавядала вагавай М., але з пагаршэннем якасці манетных сплаваў вагавая М. адпавядала некалькім лікавым. Напр., у Прыбалтыцы з 14 ст. на аснове рыжскай М. серабра выпускалі 36 шылінгаў, да канца 15 ст. з-за паніжэння *пробы* манет з гэтай жа масы серабра выраблялі 180 шылінгаў. Такім чынам нязменная вагавая М. адпавядала ўжо 5 грашова-лікавым. Імперскі манетны статут 1524 надаў статус вагавай і грашова-лікавай адзінкі Германіі — кёльнскай М. У наступны час гэта М. атрымала найбольшае распаўсюджанне ў дзяржавах паўн. Еўропы і Скандынавіі.

3) Сярэбраная манета, упершыню выпушчаная ў 1506 гарадамі Вісмар,

**Манеты мемарыяльныя СССР:** 9. 25 рублёў (паладый), 1988 (да 1000-годдзя Хрышчэння Русі); 10. 50 рублёў (золата), 1988 (да 1000-годдзя старажытнарускай архітэктуры); 11. 100 рублёў (золата), 1988 (да 1000-годдзя старажытнарускай манетнай чаканкі; 12, 13. 3 рублі (серабро), 150 рублёў (плаціна), 1989 (да 500-годдзя адзінай рускай дзяржавы); 14. 1 рубель (меднанікелевы сплаў), 1990 (да 500-годдзя з дня нараджэння Ф. Скарыны).

палцін і рублёў Аляксея Міхайлавіча, яфімак з адзнакай, пробных рублёў Канстанціна, Аляксандра I і інш. Асобную групу ўтвараюць падробкі манет, якія ніколі не абарачаліся (рублі царэўны Соф'і, Е. Пугачова, грыўня кіеўская з выявай архангела Міхаіла, «майнерты» — польскія талеры 1529, 1532, 1535, 1547, траякі 1670, 1671, двояк 1673, грош 1673 і г. д.). Метады вытворчасці М.-п.: чаканка спец. штэмпелямі, адліўка ў гіпсавых формах, вырабленых на аснове сапраўдных манет, «падпраўка» стараж. манет



**Манеты Паўднёвай Прусіі.** 1 грош 1797.

Гамбург, Любек, Люненбург, наміналамі ў $^1/_4$, $^1/_2$ і 1 М. У 16—18 ст. яе чаканяць Данія і Швецыя.

М. становіцца адной з асн. грашовых адзінак духоўных і свецкіх эмітэнтаў Прыбалтыкі: яе выпускаюць гарады Вендэн у 1556 ($^1/_2$ М.), Рэвель у 1528 (1 і 2 М.), 1561 (1, 2, 4 М.), 1562 ($^1/_2$, 1, 2, 4 М), 1623 (4 М), 1664 (1, 2, 4 М.), 1668 (2 М), 1671 (2 М), Рыга ў 1516, 1537 (1 М.), 1547, 1553—58, 1565—66, 1568 ($^1/_2$ М.), 1572 ($^1/_2$, 1 М.), 1573 ($^1/_2$ М.), *Дальхольмскі манетны двор* у 1573 ($^1/_2$, 1 М.).

4) Залатая манета (0,358 г золата) эмітавалася Германіяй у 1871—1914. 5) Грашовая адзінка Польшчы ў 1919—24. Абарачалася на тэр. Зах. Беларусі ў 1921—24. 6) Грашовая адзінка Германіі і Фінляндыі (з 1864).

*Літ.:* 1671. *І. Ф. Масько.*

**МАРКІНЯТЫ,** курганны могільнік каля в. Маркіняты Ашмянскага р-на. На ўскраіне вёскі, на левым беразе р. Клява. 7 насыпаў выш. 6—8 м. Адкрыў у 1893 Ф. В. Пакроўскі, даследаваў у 1913 П. С. Рыкаў, абследавала ў 1974 А. Г. Калечыц. Раскапаны 4 курганы. Пахавальны абрад — трупаспаленне. Знойдзены рэшткі пахаванняў на грунце і ў гаршках, а таксама сякеры, ромбападобныя і ланцэтападобныя наканечнікі коп'яў, нажы, шпоры, спражкі, бронзавыя ўпрыгожанні і дэталі конскай збруі. Датуецца 10—12 ст., адносіцца да культуры ўсх.-літ. курганоў.

*Літ.:* 272. *А. Г. Калечыц.*

**МАРОСЬКАЎСКІ МАНЕТНЫ СКАРБ.** Знойдзены ў в. Мароські Маладзечанскага р-на ў 1971. У гліняным гаршку білонныя і сярэбраныя манеты, з якіх вядомы 5682 экз.

В К Л. Жыгімонт II Аўгуст — дэнарый двайны (6 экз). 1566, 1567, 1570 *(Віленскі манетны двор).* Рэч Паспалітая. Зыгмунт III Ваза: літоўская ча-



**Манеты мяцежныя:** 1. 3 грошы; 2. 5 грошаў; 3. 10 грошаў; 4. 1 злоты; 5. 2 злотыя; 6. 5 злотых; 7. Дукат.



**Манеты расійскія для Прусіі** 1760: 1. Солід; 2. 1 грош; 3. 3 грошы; 4. 6 грошаў; 5. 18 грошаў.

канка — *дэнарый двайны* (190 экз.) 1600 1611, 1614, 1620, 1621, шэлег (92 экз.), 1614—19, 1623—27, *грош* (42 экз.) 1625—27 (Віленскі манетны двор); польская (каронная) чаканка — паўтарак (607 экз.) 1615, 1616, 1619—27 (Быдгашчанскі манетны двор), тэрнарый 162.., шэлег (7 экз.) 1613, 1623, 1625, 1626, траяк (9 экз.) 1621—24 (Кракаўскі манетны двор), *тэрнарый* (2 экз.) 1627 і са сцёртай датай (Пазнанскі манетны двор), тэрнарый (11 экз.) 1624, 1627, 1630, 163... і са сцёртай датай (Лабжаніцкі манетны двор); гданьская чаканка — грош (7 экз.) 1625—27, (Гданьскі манетны двор); рыжская чаканка — шылінг (57 экз.) 1590, 1596, 1602, 1616—21, драйпёлькер 1620 (Рыжскі манетны двор; пра названыя манетныя двары гл. ў арт. *Манетныя двары Рэчы Паспалітай*). Ян II Казімір Ваза: літоўская чаканка — шэлег (362 экз.) 1652, 1653, грош (2 экз.) 1652 (Віленскі манетны двор). Шведская Прыбалтыка. Густаў II Адольф Ваза: рыжская чаканка — шылінг (184 экз.) 1621, 1623—28, 1630—32, драйпёлькер (12 экз.) 1622—24 (гар. манетны двор Рыгі); эльблёнгская чаканка — шылінг (35 экз.) 1630—32, драйпёлькер (30 экз.) 1628—30 (гар. манетны двор Эльблёнга), шылінг са сцёртымі датай і месцам чаканкі. Хрысціна Аўгуста Ваза: рыжская чаканка — шылінг (2138 экз.) 1634—54, драйпёлькер (10 экз.) 1644, 1648, 1649 (гар. манетны двор Рыгі); лівонская чаканка — шылінг (1626 экз.) 1645, 1647—54, драйпёлькер (5 экз.) 1644, 1648 (дзярж. манетны двор Рыгі); эльблёнгская чаканка — шылінг (13 экз.) 1634, 1635 і са сцёртай датай, драйпёлькер (28 экз.) 1633—36 і са сцёртай датай (гар. манетны двор Эльблёнга); шылінг са сцёртымі датай і месцам чаканкі. Карл X Густаў: рыжская чаканка — шылінг (7 экз.) 1654 і са сцёртай датай (гар. манетны двор Рыгі); лівонская чаканка — шылінг (13 экз.) 1654, 1655 (дзярж. манетны двор Рыгі). Брандэнбург (маркграфства). Георг Вільгельм — драйпёлькер (8 экз.) 1621, 1622, 1624 (манетны двор Кёльн). Прусія (герцагства). Георг Вільгельм — шылінг (45 экз.) 1623, 1625, 1627—30, 1633 і са сцёртай датай, драйпёлькер (43 экз.) 1620, 1623—27 (манетны двор Кёнігсберг). Фрыдрых Вільгельм — шылінг (11 экз.) 1653, 1654 (манетны двор Кёнігсберг). Курляндыя (герцагства). Якаб Кетлер — шылінг 1646 (манетны двор Мітава). Цешын (герцагства). Лізавета Лукрэцыя — абол (2 экз.) 1652, 1653. Сучава. Шылінг (35 экз.) 1633, 1634 з імем Густава II Адольфа і адзнакай Рыжскага манетнага двара, драйпёлькер (37 экз.) 1633 з імем Густава II Адольфа і адзнакай Эльблёнгскага манетнага двара і шылінг са сцёртай датай з імем Густава II Адольфа і адзнакай Эльблёнгскага манетнага двара *(Сучаўскі манетны двор)*. Іспанскія Нідэрланды. Філіп IV — патагон 1652 (манетны двор Турнэ). Рэспубліка Злучаных Правінцый: правінцыяльная чаканка (Гельдэрн) — лёвендальдэр (2 экз.) 1648, 1653 (манетны двор



**Манеты-падробкі** антыкварныя: 1. Срэбраніка Уладзіміра Святаславіча; 2. Срэбраніка Яраслава Уладзіміравіча; 3. Злітка плацежнага кіеўскага тыпу.



**Марка.** Данія: Хрысціян IV, 1616.



Крамянёвыя сярпы, наканечнікі дроцікаў, праколка са стаянкі-8 **Марочна**.



Гліняны біканічны гаршчок лужыцкай культуры са стаянкі-8 **Марочна**.

Хардэрвійк); гар. чаканка — лёвендаальдэр 1648 (манетны двор Зволе), лёвендаальдэр 1648 (манетны двор Кампен). Нявызначапая манета. Шылінг значна сцёрты. Скарб ухаваны ў 1655—56. Адзін з найбуйнейшых грашовых скарбаў 17 ст., выяўленых на Беларусі. Зберагаецца ў *Мінскім абласным краязнаўчым музеі.*

*Літ.:* 1578. *В. Н. Рабцэвіч.*

**МАРО́ЧНА,** адзінаццаць стаянак каменнага і бронзавага вякоў каля сяла Марочна Зарэчненскага р-на Ровенскай вобл. Размешчаны на Пн і ПнЗ ад сяла на пясчаных узвышэннях, сярод вял. поплаўных балот р. Прыпяць (на тарфянішчы Марочна). Выявіў і даследаваў у 1981—91 У. Ф. Ісаенка, даследаваў у 1989 Л. Л. Залізняк. На стаянках 4, 5, 8 і 9 (апошнія дзве паводле Залізняка маюць назву Любоцінь-3) выяўлены буйныя калекцыі крамянёвых прылад працы эпохі мезаліту (позні этап *свідэрскай культуры, яніславіцкая культура*), неаліту і бронзавага веку, прадметы *лужыцкай культуры.* Крайні ўсх. пункт яе пашырэння — стаянка-8, дзе выяўлена 10 тыс. апрацаваных крамянёў, 3 тыс. прылад працы розных культур.

Сярод знаходак шмат свідэрскіх наканечнікаў стрэл, рубячых прылад, адбойнікаў, шліфавальных плітак, каля 1 тыс. мікралітаў, больш за 20 крамянёвых сярпоў, зерняцёрка зканічнай ніжняй часткай, лужыцкі біканічны гаршчок і інш. Значная частка рэчаў групавалася вакол агнішчаў. Выяўлены рэшткі могільніка жал. веку, абломкі ляпнога посуду з трупаспаленнем, жытла з агнішчамі, абкладзенымі камянямі. Калекцыі старажытнасцей розных эпох з гэтых стаянак істотна дапаўняюць весткі пра некаторыя археал. культуры Пд.-зах. Беларусі, у першую чаргу пра свідэрскую і лужыцкую культуры.

*У. Ф. Ісаенка.*

**МАРУЛІ́НЫ,** курганны могільнік дрыгавічоў каля в. Маруліны Навагрудскага р-на. Цяпер не існуе. У канцы 19 ст. налічваў некалькі дзесяць (па некаторых даных каля 500) насыпаў выш. да 2 м, дыям. да 8—9 м, месцамі прасочваліся сляды раўкоў. Размяшчаўся ў лесе, частка насыпаў была пашкоджана. У 1890 М. П. Авенарыус раскапаў 2 курганы. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце. У 2 пахаваннях нябожчыкі (відавочна, мужчына і жанчына) ляжалі галавой на З, рукі выцягнуты ўздоўж цела. На скроневай косці мужчыны меліся сляды ўдару вострым прадметам.

Інвентар мужчынскага пахавання: жал. нож, абломак крэсіва з крэменем, бронзавая спражка, кольца, дрот. Інвентар жаночага пахавання: бронзавыя скроневыя кольцы, бранзалет, шкляныя залачоныя пацеркі. Каля ног абодвух нябожчыкаў ляжалі абломкі жал. абручоў і дужак ад драўляных вядзёр.

Датуецца 11—12 ст.

*Літ.:* 8, 272. *Я. Г. Звяруга.*

**МАРФАЛО́ГІЯ** (грэч. morphē форма, вид + lógos навука) у археалогіі, навука пра форму і будову рэчаў, іх паходжанне, вытокі асобных элементаў, дэталей і інш. Высвятляе гісторыю ўзнікнення, развіцця, пераўтварэння і знікнення тыповых для пэўнай культуры рэчаў, пераход аднаго тыпу ў другі. М. як частка *тыпалогіі* займаецца вывучэннем і апісаннем (па загадзя распрацаванай схеме і тэрміналогіі) старажытнасцей з мэтай вызначэння генетычных сувязей паміж імі, атрымання аб'ектыўных крытэрыяў для параўнання археал. рэчаў, комплексаў і культур, выяўлення пераймальнасці, варыянтаў у іх развіцці. Марфалагічныя прыкметы з'яўляюцца асновай для вызначэння тыпаў і ў гэтым сэнсе адсоўваюць на другі план функцыянальнае, вытворчае прызначэнне прылад, якое ўстанаўліваецца па слядах зношанасці іх рабочых частак метадам трасалагічнага аналізу. У М. важная роля належыць выяўленню віду загатовак, прыёмаў апрацоўкі і наогул тэхналогіі вытворчасці рэчаў пэўнага тыпу. Вынікі марфалагічных даследаванняў дапамагаюць у складанні тыпалагічна-вытворчых і храналагічных радоў рэчаў, якія адлюстроўваюць пераход ад загатоўкі да гатовай прылады або прататыпа цераз прамежкавую форму да больш позняга вырабу. *У. Ф. Ісаенка.*

**МА́РЧАНКІ,** гарадзішча *днепра-дзвінскай культуры* каля в. Марчанкі Гарадоцкага р-на. За 500 м на У ад вёскі, недалёка ад воз. Жажуліца. Мясц. назва Царкавішча. Авальнае ў плане, памер 40×35 м, выш. 7 м. Захаваліся вал выш. 0,5 м і 2 равы глыб. да 1 м. Вядома з 1873. Даследавалі ў 1901 Л. Ю. Лазарэвіч-Шапялевіч, у 1951 Л. В. Аляксееў, у 1964 К. П. Шут. Культурны пласт таўшч. да 1 м. Знойдзена гладкасценная і штрыхаваная ляпная кераміка.

*Літ.:* 34. *Г. В. Штыхаў.*

**МАРЫЕНГРО́Ш** (ням. Mariengroschen грош Марыі), білонная манета Ніжняй Саксоніі з выявай на *аверсе* Маці Боскай Марыі з дзіцем Ісусам (*метрычная проба* 500—368, *лігатурная маса* 2,88—1,50 г). Эмісія адкрыта ў 1503 манетным дваром Гослара, да якога далучыліся ў хуткім часе інш. эмісійныя цэнтры. Адпавядаў паводле курсу $^1/_{36}$ талера. Чаканка спынена ў 1570-я г. На Беларусі выяўлены ў скарбах 17 ст.

*Літ.:* 1748.

**МАРЭ́НА** (франц. moraine), матэрыял разбурэння горных парод, які ледавік, што рухаецца, цягне і адкладае перад сабой (канцавыя М.), па баках (бакавыя М.), пад целам (асноўныя, донныя М.) і інш. За кошт адкладаў М. ўтварыўся марэнны рэльеф. На Пн Беларусі ў зоне паазерскага зледзянення ён характарызуецца чаргаваннем узвышшаў, катлавін, азёр і забалочаных паніжэнняў. У зоне сожскага і дняпроўскага зледзяненняў на Пд Беларусі ўзгоркі і грады панізіліся пад уплывам дэнудацыі і эрозіі, сфарміраваліся марэнныя раўніны. Датаванне марэнных адкладаў мае важнае значэнне для вызначэння геалагічнага ўзросту помнікаў палеаліту. Так, пры вызначэнні ўзросту Бердыжскай верхнепалеалітычнай стаянкі (гл. *Бердыж*) Г. Ф. Мірчынк прасачыў сувязь марэнных адкладаў бюльскай стадыі вюрмскага (валдайскага) зледзянення з 2-й надпоплаўнай тэрасай Дняпра і Сажа і датаваў помнік часам адступлення валдайскага ледавіка.

*Літ.:* 757. *А. Г. Калечыц.*

**МА́СКАВІЧЫ,** Маскаўцы, гарадзішча днепра-дзвінскай культуры, штрыхаванай керамікі культуры і 11—13 ст. каля в. Маскавічы Браслаўскага р-на. За 300 м на Пд ад вёскі, на ўзгорку ўсх. берага воз. Дзерба. Пляцоўка пл. 1 га, няправільнай формы, на З прылягае і рэзка абрываецца да возера, на Пн і У — да балоцістай нізіны. На рубяжы н. э. гарадзішча было ўмацавана драўляным частаколам, у 11—12 ст. зроблены сцены з тоўстых гарызантальна пакладзеных бярвён. У 12—13 ст. з'яўлялася парубежнай крэпасцю на паўн.-зах. ускраіне Полацкага княства, магчыма, было сядзібай-замкам ці гандл. факторыяй. Выявіў у канцы 19 ст. Ф. В. Пакроўскі (як Рацішскае гарадзішча), абследавалі ў 1955 Л. В. Аляксееў, у 1972 М. М. Чарняўскі, даследавала 2600 м² у 1976—88 Л. У. Дучыц. Культурны пласт 0,2—0,3 м, на зах. тэрасе да 1,2 м.

Знойдзены нажы, замкі, ключы, крэсівы, нажніцы, інш. прылады працы, зброя, конская збруя і рыштунак конніка, рыбалоўныя снасці, вырабы з косці (грабяні, праколкі, гузікі, тронкі нажоў), керамічныя і шыферныя прасліцы, бранзалеты, пярсцёнкі, падвескі, фібулы, пацеркі. Знойдзены 4 энкалпіёны, больш за 100 абломкаў касцей жывёл з надпісамі і малюнкамі (гл. ў арт. *Косці з надпісамі і малюнкамі*), фрагменты ляпной і ганчарнай керамікі. Рэшткаў пабудоў не выяўлена, але аэрафотаздымак гарадзішча сведчыць пра комплексную забудову. Ёсць падставы меркаваць, што жытлы былі наземныя, зрубныя, па форме блізкія да квадрата, памеры ад 16 да 25 м². Пад ніжнімі вугламі зафіксаваны мураваныя і драўляныя падкладкі. Сцены рабілі з круглых і абчасаных бярвён дыям. 0,15—0,2 м, пазы абмазвалі глінай. Падлога была драўляная і глінабітная з пясчанай або глініста-земляной падсыпкай. Печы глінабітныя на слупавых апечках (адна печ даўж. 1 м, шыр. 0,6 м, выш. скляпення 0,4 м з падпечнай ямай захавалася вельмі добра, у ёй знойдзены вуголле, фрагменты керамікі і шырокапласцініты бронзавы арнаментаваны бранзалет). Гасп. ямы памерамі ад 0,5×0,5 м да 1×1,5 м былі заглыблены ў мацярык ад 0,1 да 1,2 м, сценкі некаторых абмазаны глінай, верагодна, што

ў іх захоўваліся харчовыя прыпасы. У 1982, 1983, 1985, 1988 праводзіліся гідраархеалагічныя разведкі і падводныя раскопкі ў воз. Дзерба, якое прымыкае да гарадзішча. Культурны пласт 0,2—0,3 м. Знойдзены цыліндрычны замок, шыфернае прасліца, фрагмент сіняга шклянога пярсцёнка, медная блешня, кераміка і інш. Мяркуецца, што тут існаваў пасад, які з цягам часу апынуўся пад вадой.

*Літ.:* 349. *Л. У. Дучыц.*

**МАСКОЎСКАЕ АРХЕАЛАГІЧНАЕ ТАВАРЫСТВА.** Існавала ў Маскве ў 1864—1922. Першы яго кіраўнік А. С. Увараў, з 1884 яго жонка П. С. Уварава. Вывучала старажытнасці Расіі, займалася аховай стараж. помнікаў, арганізоўвала навук. археал. раскопкі. Пры М. а. т. выдаваўся шматтомны зб. «Старажытнасці», у якім друкавалі свае творы А. Г. К. Кіркор, М. Ф. Кусцінскі, Е. Р. Раманаў, К. П. і Я. П. Тышкевічы, М. А. Янчук і інш. Пры т-ве існавалі камісіі: па захаванні помнікаў, усходняя, славянская, археалагічная, па вывучэнні старой Масквы. Т-ва спрыяла арганізацыі і дзейнасці музеяў старажытнасцей. Па яго ініцыятыве з 1869 склікаліся археал. з'езды, арганізоўваліся выстаўкі. З Беларусі членамі т-ва былі А. С. Будзіловіч, К. А. Гаворскі, М. В. Доўнар-Запольскі, У. З. Завітневіч, Я. Завіша, Р. Г. Ігнацьеў, Кіркор, І. І. Казлоўскі, Ю. Ф. Крачкоўскі, С. А. Круповіч, Кусцінскі, М. К. Любаўскі, Ф. В. Пакроўскі, А. П. Сапуноў, А. М. Семянтоўскі, І. Я. Спрогіс, М. М. Турбін, Тышкевічы, М. В. Фурсаў, А. К. Храптовіч-Бутэнеў, І. Д. Чэрскі, Ю. Ядкоўскі, Янчук і інш. Найб. дзейсныя сувязі М. а. т. з Беларуссю былі ў час падрыхтоўкі да *Археалагічнага з'езда дзевятага* (Вільня, 1893).

*Г. А. Каханоўскі.*




Крыжы-энкалпіёны (1, 5, 6), пярсцёнкі (2—4), спражка (7), фібулы (8—10), бранзалет (11) з гарадзішча **Маскавічы.**

**МАСТАВАЯ,** вулічны насціл для пешаходаў і транспартных сродкаў. Характэрна для ўсіх стараж. усх.-слав. гарадоў. У 11—14 ст. і познім сярэднявеччы М. насцілалі дрэвам, найчасцей выкарыстоўваючы хвою. У Віцебску ў пласце 15 ст. выяўлена М. з дубовых плашак. Найбольш раннія вулічныя насцілы мелі простую канструкцыю: на грунт папярок ходу клалі тонкія бярвёны або жэрдкі. Такое машчэнне характэрна для сядзіб. Больш трывалай была М. з рознымі злучэннямі. У Віцебску дошкі выш. 28—30 см, плашкі шыр. 22—28 см, таўшч. 10—14 см або бярвёны дыям. 14—17 см укладвалі на 2—3 лагі, пад якія падводзілі кароткія абрубкі бярвён з пазамі. У Бярэсці і Слуцку пад лагі падкладвалі дубовыя або бярозавыя бярвёны на ўсю шырыню М. Для мацавання і фіксацыі насцілу выкарыстоўвалі пакладзеныя паверх яго плашкі і калкі, якія забівалі побач з лагамі ці бакавымі бярвёнамі. Часам тарцы папярочных дошак ці бярвён устаўлялі ў падоўжны паз бакавога бервяна. У Мінску дошкі насцілу прыбівалі драўлянымі цвікамі (гваздамі) да лагаў праз спецыяльна зробленыя для гэтага адтуліны. Шыр. насцілу М. 12—14 ст. 2—4 м (Мінск, Віцебск, Бярэсце, Гродна, Слонім, Слуцк, Полацк), у 17 ст.— больш за 5 м (Віцебск, Магілёў). Гасп. развіццё гарадоў садзейнічала ўдасканаленню вулічных камунікацый. У Мінску ў пластах 16—18 ст. на забалочаных месцах выяўлены М. на палях. На палі апіраліся папярочныя лагі. Шыпы паляў уваходзілі ў квадратныя гнёзды лагаў. Маставыя перыядычна аднаўляліся, на стары насціл укладвалі новы, з часам утваралася некалькі ярусаў М., якія складаюць аснову вядомага ў археалогіі гарадоў буд. яруса. Рамонт М. на Русі рэгламентаваўся статутам наўгародскага кн. Яраслава «О мосцех» (11 ст.). На Беларусі гэта правіла зафіксавана ў грамаце вял. кн. літоўскага Аляксандра віцебскаму намесніку Міхаілу Жаслаўскаму. Пісьмовыя крыніцы сведчаць, што ў 17 ст. М. чысцілі спец. лапатамі «для выгребания вулиц».

*Літ.:* 385, 424, 702, 703, 1000, 1221, 1347. *Л. У. Калядзінскі, П. А. Русаў.*

**МАТАЧНІК** у манетнай справе, прылада для тыражавання манетных *штэмпеляў* штампоўкай. Выкарыстанне М. вядома з 1420-х г. на *дзенгах* Васіля Дзмітравіча. Нагадвае штэмпель, выява М. адпавядае выяве манеты і адваротная штэмпеля (напр., павернутая ўправа на штэмпелі, улева — на М.). Выразаўся М. уручную (з-за малой плошчы манеты — усе дэталі выявы) на стальным стрыжні, потым загартоўваўся. У 18 ст. ў Зах. Еўропе і Расіі для выррабу штэмпеляў выкарыстоўвалі асобныя *пуансоны*, з дапамогай якіх выява выбівалася ў некалькі прыёмаў. У пач. 19 ст. з павелічэннем механічнай магутнасці штампавачнага абсталявання выкарыстоўваецца М., у Зах. Еўропе захаваў назву пуансон.

*Літ.:* 1548, 1597, 1602.

**МАТЫ́КА,** ручная прылада для апрацоўкі глебы. Уяўляла сабой насаджаны на доўгае драўлянае дзяржанне апрацаваны плоскі кавалак рога, камень або металічную пласціну з адтулінай. Развілася, відаць, з капалак (рэбраў жывёл, жардзін) эпохі палеаліту, кіркападобных капаніц, якія выраблялі з рагоў паўн. і высакароднага алевя (адзін адростак рога пакарочвалі, каб утварыць вузкае лязо). Падобныя прылады знойдзены ў Краснасельскіх шахтах. Сякерападобныя М. з рога высакароднага аленя з адтулінай для замацавання дзяржання выяўлены ў кар'еры каля Смаргоні і на стаянцы *Камень.* Некаторыя даследчыкі адносяць да М. грубаабабітыя трапецa- і пікападобныя прылады працы, якія нагадвалі сякеры *макралітычных культур.* Да М. «другога тыпу» належаць, верагодна, прылады з трубчастых конскіх касцей з падоўжнай адтулінай. Такія вырабы знойдзены на стаянцы Камень. Бронзавыя і жал. кельты, замацаваныя на канцах палак або каленчатых дзяржанняў, таксама маглі выкарыстоўвацца як М. Вядомы драўляныя М. (стаянка Сарнатэ, Латвія).

На тэр. Беларусі выяўлена каля 70 каменных і рагавых М. Эпоха неаліту прадстаўлена М. з рагоў лася — авальнымі *(Зацэнне),* прамавугольнымі (вёскі Лясная Слаўгарадскага і Ваўкі Брэсцкага р-наў) і інш. Большасць каменных свідраваных М. адносіцца да бронзавага веку. Сярод іх трапляюцца сякерападобныя (Мазырскі р-н), вузкаабушковыя *(Здзітаў),* з плечукамі, т. зв. «беларуска-літоўскага тыпу» (Камень, в. Хорава Пружанскага р-на), прамавугольныя (г. п. Відзы Браслаўскага р-на), авальныя (г. Давыд-Гарадок Столінскага р-на) і інш. Трапецападобная каменная М. з бакавымі насечкамі знойдзена ў наваколлі г. Быхаў. З дапамогай М. апрацоўвалі зямлю на палях пры падсечным (агнявым, лядным), на прыжытлавых агародах пры матычным (поймавым) земляробстве. Кароткае шырокае лязо звычайна забяспечвала рыхленне глебы на глыб. 8—12 см. М. ранняга жалезнага веку невядомы. Відаць, зямлю апрацоўвалі раламі (часам з жал. наральнікамі) і баронамі-сукаваткамі (вершалінамі). Жалезныя М. агароднага тыпу знойдзены ў пластах 12—13 ст. пры археал. раскопках у Мінску, Лагойску, Лукомлі. У больш познія часы амаль на ўсёй тэр. Беларусі пашырыліся трапецападобныя і трохвугольныя М., а на Пд — таксама і авальныя. Зубчастыя (2—4 зубцы) і камбінаваныя М. з'явіліся пазней, выкарыстоўваюцца і ў наш час.

*Літ.:* 536, 582, 603. *У. Ф. Ісаенка.*

**«МАТЭРЫЯ́ЛЫ І ДАСЛЕ́ДАВАННІ ПА АРХЕАЛО́ГІІ СССР»** («Материалы и исследования по археологии СССР», МИА), серыйнае выданне Ін-та археалогіі АН СССР, якое выпускалася ў 1940—72 (№ 1—187) у Маскве на рус. мове. Змяшчала тэматычныя артыкулы і манаграфіі па важных праблемах археалогіі (археал. культуры, стараж. вытворчасць, археалогія архітэктуры і інш.), а таксама рэгіянальныя зборы старажытнасцей розных эпох, матэрыялы найб. вывучаных археал. помнікаў. Значнае месца ў публікацыях адведзена археал. даследаванням на тэр. Беларусі.

У манаграфіі Б. А. Колчына «Чорная металургія і металаапрацоўка ў старажытнай Русі» (№ 32, 1953) прыведзены звесткі пра знаходкі вырабаў кавальскага рамяства з курганоў і гарадзішчаў 11—13 ст. на тэр. Брэсцкай, Гомельскай і Мінскай абласцей, дадзены тыпы і канструкцыя сырадутных печаў з гарадзішчаў *Кімія* і *Лабеншчына.* М. М. Варонін у працы «Старажытнае Гродна» (№ 41, 1954) разгледзеў пытанні тапаграфіі, матэрыяльнай культуры горада 11—14 ст., даў характарыстыку архіт. помнікаў 12 ст. Тут жа змешчаны матэрыялы па гісторыі земляробства (А. У. Кір'янаў) і звесткі пра фауну (В. І. Цалкін) з раскопак Гродна. «Нарысы па гісторыі рускага ваеннага дойлідства X—XIII стст.» П. А. Рапапорта (№ 52, 1956) прысвечаны даследаванню абарончых сістэм стараж.-рус. гарадоў, у т. л. Заслаўя, Мінска, Барысава, Свіслачы, Лагойска, Оршы і інш. У зборніку «Помнікі зарубінецкай культуры» (№ 70, 1959) надрукаваны матэрыялы пра раскопкі помнікаў у Верхнім Падняпроўі, у т. л. пра гарадзішча і бескурганны могільнік Чаплін (А. В. Амброз, Ю. У. Кухарэнка, П. М. Траццякоў). У артыкуле А. М. Кірпічнікава «Кідальная артылерыя старажытнай Русі: (З гісторыі сярэдневяковай зброі VI—XV стст.)» у зб. «Кі-



**Матыкі** з рога (1—5) і каменю (6—12). 2—3-е тысячагоддзі да н. э.

дальная артылерыя і абаронччыя збудаванні старажытнай Русі» (№ 77, 1958) выкарыстаны археал. матэрыялы, знойдзеныя пры раскопках *Гродзенскага Старога замка.* У зборніку «Славяне напярэдадні ўтварэння Кіеўскай Русі» (№ 108, 1963) змешчаны матэрыялы Э. А. Сымановіча пра гарадзішча Калочын-1 (Рэчыцкі р-н), якое пазней дало назву *калочынскай культуры.* У зборніку «Ля вытокаў старажытных культур (эпоха мезаліту)» (№ 126, 1966) Н. М. Гурына паказала магчымасць супастаўлення помнікаў позняга палеаліту і мезаліту ў Польшчы з помнікамі паўн.-зах. Беларусі. У. Дз. Будзько даў характарыстыку крамянёвага інвентару помнікаў свідэрскай і грэнскай культур *Падлужжа* і *Грэнск.* У зборніку «Палеаліт і неаліт СССР» (№ 131, 1965) змешчаны артыкул Гурынай «Новыя даныя пра каменны век паўночна-заходняй Беларусі», у якім падведзены вынікі разведак і раскопак помнікаў гэтага часу, вызначана агульная характарыстыка культур эпохі мезаліту і неаліту і асаблівасці іх развіцця. У манаграфіі І. І. Арцёменкі «Плямёны Верхняга і Сярэдняга Падняпроўя ў эпоху бронзы» (№ 148, 1967) разглядаецца паходжанне, перыядызацыя, датаванне, лакальныя варыянты помнікаў *сярэднедняпроўскай культуры.* У зборніку «Новыя дадзеныя пра зарубінецкую культуру ў Падняпроўі» (№ 160, 1969) змешчаны артыкул Трацякова пра вынікі вывучэння помнікаў культуры за апошні час і перспектывах вывучэння генетычных сувязей позназарубінецкіх і раннесярэдневяковых помнікаў у Падняпроўі, артыкул Л. Д. Побаля аб даследаванні могільнікаў *Сямурадцы* і *Пагост* (Жыткавіцкі р-н), артыкул К. В. Каспаравай аб раскопках бескурганнага могільніка і селішча *Атвержычы* (Столінскі р-н). У манаграфіі В. В. Сядова «Славяне Верхняга Падняпроўя і Падзвіння» (№ 163, 1970) на археал., лінгвістычным, гідранімічным матэрыялах разгледжаны працэсы рассялення слав. плямён з сярэдзіны 1-га тысячагоддзя да н. э. да 14 ст. ў Верхнім і Сярэднім Падняпроўі і Падзвінні, бас. Прыпяці і інш. У зборніку «Этнакультурныя агульнасці лясной і лесастэпавай зон еўрапейскай часткі СССР у эпоху неаліту» (№ 172, 1973) Дз. Я. Цялегін даў характарыстыку *днепра-данецкай культуры,* ямачна-грабеньчатай керамікі і струмельска-гасяцінскага тыпу. У артыкуле І. М. Цюрынай пра вылучаныя ў Верхнім Падняпроўі 2 храналагічныя групы неалітычных помнікаў паказана блізкасць паселішчаў верхнедняпроўскай і валдайскай культур. Зборнік «Старажытныя славяне і іх суседзі» (№ 176, 1970) прысвечаны 60-годдзю Трацякова. У ім змешчаны матэрыялы І. В. Бірулі пра каменныя курганы 10—12 ст. каля в. *Ратайчыцы* (Камянецкі р-н), Г. Ф. Салаўёвай пра курганныя могільнікі сярэдзіны і канца 1-га тысячагоддзя н. э. *Вароніна* (Быхаўскі р-н) і каля в. Прудкі (Магілёўскі р-н), Ф. Д. Гурэвіч пра наземныя зрубныя пабудовы з глінабітнымі печамі і печамі-каменкамі з Гродна, Ваўкавыска, Навагрудка, Слоніма. І. П. Русанава змясціла карту пашырэння помнікаў *пражскай культуры* (тыпу *Карчак*). Надрукаваны матэрыялы У. У. Крапоткіна пра *Стражэвіцкія манетна-рэчавыя скарбы* і *Старадзедзінскі манетны скарб,* а таксама Побаля пра гарадзішча *Кісцяні* Рагачоўскага р-на. Манаграфія Трацякова «Ля вытокаў старажытнарускай народнасці» (№ 179, 1970) прысвечана працэсу ўтварэння стараж.-рус. народнасці — агульнага продка рускіх, украінцаў і беларусаў, дадзена гісторыя даследавання і характарыстыка плямён, што насялялі Верхняе Падняпроўе ў 1-м тысячагоддзі н. э. *А. У. Ільюцік.*

**«МАТЭРЫЯЛЫ ПА АРХЕАЛО́ГІІ БССР»** («Материалы по археологии БССР»), зборнік матэрыялаў па археалогіі Беларусі (т. 1, 1957), падрыхтаваны супрацоўнікамі сектара археалогіі Ін-та гісторыі АН БССР і выдадзены на рус. мове ў Мінску.

Зборнік адкрываецца арт. К. М. Палікарповіча «Археалагічныя даследаванні ў БССР у 1945—1953 гг.», у якім падводзяцца вынікі раскопак помнікаў сярэдняга і верхняга палеаліту, эпохі неаліту і бронзы, жалезнага веку. Значным дасягненнем даследчыкаў аўтар лічыць адкрыццё мусцьерскай стаянкі *Падлужжа* (Чачэрскі р-н) і рэштках верхнепалеаліт. жытлаў з чарапоў, круглых і плоскіх касцей мамантa. Значны рэчавы матэрыял атрыманы пры вывучэнні помнікаў ранняга жалезнага веку каля в. *Збаравічы, Лабеншчына* (Мінскі р-н), *Вязынка* (Маладзечанскі р-н), *Кімія, Навасёлкі* (Барысаўскі р-н), а таксама *Гарошкаў, Мілаград* (Рэчыцкі р-н), *Мохаў, Чаплін* (Лоеўскі р-н) і інш. У арт. дадзена высокая ацэнка даследаванням стараж. гарадоў — Гродна, Мінска, Ваўкавыска і інш. У арт. Палікарповіча «Да пытання аб мусцьерскай культуры ў Верхнім Падняпроўі» прыводзіцца аналіз усіх знаходак мусцьерскага часу ў бас. Верхняга Дняпра, надрукаваны вынікі раскопак стаянкі Падлужжа. Арт. Палікарповіча «Стаянкі Сярэдняга Пасожжа» (матэрыялы абследавання 1928) па сутнасці з'яўляецца археал. картай стараж. помнікаў бас. Сажа. Усе яны маюць прывязку да населеных пунктаў, падрабязную характарыстыку крамянёвага інвентару і керамікі. У арт. В. М. Мельнікоўскай «Скарб латэнскага часу з паўднёва-ўсходняй Беларусі» дадзена падрабязная характарыстыка 11 цэлых і фрагментарных бронзавых і срэбраных бранзалетаў, знойдзеных на гарадзішчы Гарошкаў. У арт. А. Р. Мітрафанава «Гарадзішча ў Вязынцы» прыводзяцца вынікі раскопак помніка ў 1952: апісаны рэшткі 3 жытлаў і некалькіх гасп. ям, знаходкі — гліняныя прасліцы, фрагменты штрыхаванай керамікі, вырабы з бронзы, жалеза, каменя і інш. Арт. І. Г. Пронінай і В. Я. Гарута «Рэшткі жывёл з пасяленняў III ст. да н. э.— V ст. н. э. на тэрыторыі Мінскай вобласці БССР» прысвечаны характарыстыцы касцявых знаходак з раскопак Мітрафанава на гарадзішчах Кімія, Навасёлкі, Лабеншчына. Арт. В. Р. Тарасенкі «Старажытны Мінск» і «Раскопкі гарадзішча «Шведская гара» ў Ваўкавыску ў 1954 г.» прысвечаны даследаванням стараж. бел. гарадоў. У першым прыведзены пісьмовыя звесткі пра Мінск, гісторыя археал. раскопак, характарыстыка планіроўкі горада, жылых і гасп. пабудоў, шматлікіх помнікаў матэрыяльнай культуры, падводзяцца галоўныя вынікі раскопак 1945—51 на мінскім замчышчы. У другім арт. паводле такога ж плана расказваецца пра археал. раскопкі ў Ваўкавыску. Усе арт. ў зборніку добра праілюстраваны фотаздымкамі, планамі, схемамі, малюнкамі. *У. Дз. Будзько.*

**МАЧУ́ЛІНА,** археал. помнікі каля в. Мачуліна Ваўкавыскага р-на.

Паселішча 16—18 ст. За 300 м на ПнЗ ад вёскі, на ўзвышшы правага берага р. Мачулянка. Выявіў і даследаваў 212 м² у 1985 В. У. Шаблюк. Культурны пласт 0,6—1 м. Захаваліся рэшткі 2 жылых драўляных пабудоў 17 ст. Падмуркі складающа з размешчаных на гліняныай пляцоўцы камянёў і цэглы-пальчаткі, змацаваных растворам вапны.

Знойдзены: бытавая кераміка (гаршкі, макотры, міскі і інш.), шкляны посуд, кафля, прылады працы і рэчы хатняга ўжытку (нажы, разец, стамеска, ключы, спражкі, падкоўкі, іголкі, шпількі), манеты 16—17 ст. (паўгрош Жыгімонта І, соліды і грошы Яна II Казіміра, Густава II Адольфа Вазы, паўграшовікі Жыгімонта III Вазы).

Паселішча адносіцца да феад. двароў.

Рэшткі кальвінскага збору 2-й пал. 17 — 1-й чвэрці 18 ст. За 1 км на Пн ад вёскі, ва ўрочышчы Кальвінаўка. Захаваўся падмурак 9×9 м са шчыльна складзеных валуноў, змацаваных растворам вапны. У муроўцы шыр. 0,5—0,7 м і выш. 0,3—0,9 м выкарыстана таксама цэгла-пальчатка (26×12×6 і 25×14×6 м). Унутры пабудовы выяўлены пахавальны склеп 3×2 м і 2 пахаванні. На месцы раскопак знойдзены фрагменты глінянага посуду, круглага аконнага шкла дыям. 11 см, бронзавыя накладка пояса і гузік, медны солід Яна II Казіміра. Пра кальвінскі збор захаваліся звесткі ў пісьмовых крыніцах 1-й чвэрці 18 ст.

*Літ.:* 1308, 1462. *В. У. Шаблюк.*

**МЕГАЛІТЫ́ЧНАЯ КУЛЬТУ́РА,** археал. культура пахаванняў у каменных грабніцах, зробленых з пліт (дальменаў) і суцэльных каменных стэл (менгіраў). Пашырана на Пн Еўропы, у зах. абласцях Англіі, Францыі, Іспаніі, у асобных раёнах Швецыі, Міжземнамор'я, Зах. Каўказа. Неалітычныя плямёны пачалі будаваць каменныя грабніцы каля 3-га тысячагоддзя да н. э. і асабліва шырока ў познім неаліце. Апошнія стадыі М. к. прыпадаюць на энеаліт і бронзавы век (да 1800 г. да н. э.). Больш простыя збудаванні (каменныя скрыні-цысты пад курганамі) змяняліся дальменамі з калідорамі, круглымі грабніцамі (з заднімі камерамі, выгнутымі калідорамі, галерэямі). Пліты некаторых дальменаў упрыгожваліся арнаментам. Унутры пабудоў захаваліся каменныя сякеры, стрэлы, нажы, зерняцёркі, каралі, падвескі, амулеты, зрэдку медныя сякеры, кінжалы, інш. рэчы пахавальнага інвентару. Мегалітычныя грабніцы доўгі час выкарыстоўваліся для калектыўных

(радавых) пахаванняў пераважна часоў ранняга патрыярхату. Менгіры дасягаюць выш. 12—20 м, утвараюць рады, алеі і кругі, якія маюць працягласць да 1 км. Да М. к. належыць *лейкападобных кубкаў культура.* Асобныя элементы М. к. сустракаюцца ў *ямнай этнакультурнай вобласці, шарападобных амфар культуры* і інш.

*Літ.:* 747, 798. *У. Ф. Ісаенка.*

**МЕГАЛІТЫЧНЫЯ ЗБУДАВАННІ,** мегаліты (грэч. mégas вялікі + + líthos камень), старажытныя збудаванні з вялікіх неапрацаваных або груба апрацаваных камянёў. Да такіх збудаванняў належаць дальмены, кромлехі, менгіры, пахавальныя і крапасныя цыклапічныя пабудовы. Распаўсюджаны па ўсім свеце (за выключэннем Аўстраліі), пераважна ў прыморскіх рэгіёнах. На тэр. Еўропы найб. старажытныя М. з. вядомы з эпохі энеаліту, значна пашырыліся ў бронзавым веку. Найбольш М. з. вядомы на атлантычным узбярэжжы Зах. Еўропы, у Міжземнамор'і, на Каўказе. Сусветна вядомым М. з. з'яўляецца Стоўнхендж у Англіі, які, на думку многіх даследчыкаў, уяўляў сабой старaж. астранамічную абсерваторыю. На Беларусі да М. з. можна аднесці нагрувашчванне вялізных каменных глыб на ўзгорку каля в. Горка Дзятлаўскага р-на, дзе з даўніх часоў робяць ахвяраванні мясц. жыхары. Помнікамі рытуальна-астранамічнага прызначэння, верагодна, можна лічыць вял. валуны на беразе воз. Янова каля в. Бікульнічы Полацкага р-на, складзеныя ў выглядзе квадрата 15×15 м, адкрытага з аднаго боку. Захаваліся таксама даволі невыразныя звесткі пра М. з. каля в. Скрыгалаў Мазырскага р-на.

*Э. М. Зайкоўскі.*

**МЕДНЫ ВЕК,** паняцце, якое адпавядае тэрмінам *энеаліт* і «халкаліт».

**МЕЖАВА,** гарадзішчы, курганная група каля вёскі і воз. Межава Расонскага р-на.

Гарадзішча-1. На паўд.-ўсх. ускраіне вёскі, на правым беразе р. Зміграўка. Даследавалі ў 1978 Г. В. Штыхаў, у 1981 Т. С. Скрыпчанка, у 1989 Г. М. Семянчук. 2 пляцоўкі. Памер адной 70×60 м, выш. 30 м; на ёй размешчаны магілкі з каменнымі крыжамі. З захаду да яе прымыкае другая пляцоўка памерам 180×120 м. На яе зах. баку захаваўся вал выш. 6 м, даўж. 100 м, шыр. 20 м і роў глыб. 2 м. Культурны пласт таўшч. 0,3—1 м. Знойдзены ляпны посуд 6—9 ст. і ганчарная кераміка 10—14 ст., тыгель, праслíца, фібула. У 10—13 ст. гарадзішча было фарпостам Полацкага княства на паўн. мяжы.

Гарадзішча-2. За 2 км на ПнУ ад вёскі, каля былой в. Бярозаўка. Выявіў у 1977 М. Г. Савіцкі. Абследаваў у 1989 Семянчук. Пляцоўка круглай формы, дыям. 35 м, абкружана валам выш. да 1,5 м і ровам глыб. да 1,5 м. Культурны пласт 0,5—1 м. Раскопкі не праводзіліся.

Гарадзішча-3. За 1 км на Пн ад вёскі. Мясц. назва Чорная гара. Выявіў у 1977 Савіцкі, абследавалі ў 1981 Скрыпчанка, у 1989 Семянчук. Пляцоўка круглай формы, дыям. 40 м, выш. 16 м. Сабрана ляпная кераміка *днепра-дзвінскай культуры.* Гарадзішча знішчана вясной 1989.

Гарадзішча-4. За 2 км ад вёскі, каля былой в. Сопіна. Выявіў у 1977 Савіцкі, абследаваў у 1989 Семянчук. Размешчана на мысе правага берага р. Зміграўка, выш. 20 м, памер 80×40 м. З боку поля ўмацавана 3 валамі выш. 2 м і 3 равамі глыб. 2 м. Культурны пласт адсутнічае.

Гарадзішча-5. За 3 км ад вёскі, каля былой в. Міхалеўшчына. Выявіў у 1977 Савіцкі, абследаваў у 1989 Семянчук. Памер 35×40 м, выш. 15 м, абкружана валам выш. 1,5 і ровам глыб. 1 м. Раскопкі не праводзіліся.

Курганная група. На паўд. беразе воз. Межава. 6 насыпаў дыям. 12 м, выш. да 1 м. Выявіў у 1928 І. Карандзей, абследавалі ў 1968 Г. В. Штыхаў, у 1981 Скрыпчанка, у 1989 Семянчук. Раскопкі не праводзіліся. *Г. М. Семянчук.*

**МЕЖЫМОСЦЕ** (летапіснае Межимостя), старажытны горад, які існаваў, відаць, каля Мазыра (назва разам з ім) і згадваецца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1170. Паводле летапісу, зімой 1168—69 за М., на дарозе ў Мазыр, быў схоплены кн. Міхалка Юр'евіч, якога кіеўскі кн. Мсціслаў Ізяславіч паслаў у Ноўгарад да свайго сына Рамана па дапамогу. Аднак дапамога не прыйшла. Кіеў быў разрабаваны (запіс за 1171). Некаторыя даследчыкі атаясамліваюць М. з *Юравічамі.* У дадзеным выпадку горад размяшчаўся за 20 км на ПдУ ад Мазыра, на мысе высокага левага берага р. Прыпяць, за 700 м ад рэчышча.

*У. Ф. Ісаенка.*

**МЕЗАЛІТ** (грэч. mésos сярэдні + + líthos камень), эпоха каменнага веку паміж палеалітам і неалітам. М. датуецца на тэр. Беларусі 9—5-м тысячагоддзямі да н. э. Асновай гаспадаркі былі паляванне, рыбалоўства, збіральніцтва. Асн. прылады працы — лук і стрэлы, разцы, скрабкі, тапары, скоблі, праколкі, нажы, выробленыя з крэменю, дрэва, косці. У М. на тэр. Беларусі фарміруюцца *грэнская культура* і днепра-дзяснінская культура на У, *нёманская мезалітычная культура* на З і ПнЗ. Вядомы помнікі *кунда культуры* на Пн, яніславіцкай, кудлаеўскай, свідэрскай культур (гл. адпаведныя арт.) на Пд і З. Стаянкі чалавека эпохі М. былі каротка- і доўгачасовымі, пл. ад некалькіх дзесяткаў м² да некалькіх га, жытлы наземныя і паўзямлянкавыя пл. 10—20 м². *У. П. Ксяндзоў.*

**МЕЛЬНІКОЎСКАЯ** Вольга Мікалаеўна (н. 14.9.1921, г. Сасава Рязанскай вобл.), савецкі археолаг. Канд. гіст. навук (1965). Пасля сканчэння Маскоўскага ун-та (1946) працавала ў Ін-це археалогіі АН СССР. У 1951—61 вывучала помнікі археалогіі паўд.-ўсх. Беларусі — праводзіла раскопкі гарадзішчаў, селішчаў, могільнікаў: *Борхаў, Гарошкаў, Глыбаў, Калочын, Мілаград, Мохаў* і інш. Абследавала каля 200 археал. помнікаў, даследаваная пл. складае каля 10 тыс. м². Вялікі матэрыял раскопак абагульніла ў *мілаградскую культуру.* Выявіла і даследавала абарончыя ўмацаванні, жытлы і гасп. пабудовы плямён гэтай культуры, шматлікія вырабы прыкладнога мастацтва, у т. л. 2 скарбы жаночых упрыгожанняў латэнскага часу (сярэбраныя і бронзавыя бранзалеты, паставыя пацеркі 5—6 ст. да н. э.), скарб с.-г. прылад, каля 100 гліняных культавых фігурак жывёл (у асноўным каня) і інш. Вызначыла культурна-гандл. сувязі плямён мілаградскай культуры з інш. плямёнамі. Распрацавала пытанні абсалютнай і адноснай храналогіі культуры, звязвала яе насельніцтва з *неўрамі,* якіх лічыць славянамі.



В. М. Мельнікоўская.

*Тв.:* Памятники раннего железного века Верхнего Поднепровья // Краткие сообщения Ин-та археологии АН УССР. Киев, 1957. Вып. 7; Древнейшие городища Южной Белоруссии // Краткие сообщения Ин-та истории материальной культуры АН СССР. М., 1957. Вып. 70; Клад латенского времени из юго-восточной Белоруссии // Материалы по археологии БССР. Мн., 1957. Т. 1; Могильник милоградской культуры в дер. Горошков в Юж-

ной Белоруссии // Сов. археология. 1962. № 1; О взаимосвязи милоградской и зарубинецкой культур в Южной Белоруссии // Там жа. 1963. № 1; Племена Южной Белоруссии в раннем железном веке. М., 1967.

*Т. М. Каробушкіна.*

**МЕТАЛАГРА́ФІЯ,** навука пра структуру (будову) металаў і сплаваў, састаўная частка металазнаўства. Вывучае заканамернасці ўтварэння структуры, даследуе макра- і мікраструктуру металаў, а таксама змены механічных, электрычных, магнітных, цеплавых і інш. фізічных уласцівасцей металу ў залежнасці ад змены яго структуры. Мае важнае значэнне для даследавання металічных прадметаў, знойдзеных у час археал. раскопак. Асабліва шырока выкарыстоўваецца М. пры вывучэнні знаходак з жалеза і сталі, што дазваляе ўстанавіць, з якога металу зроблены прадмет, якія віды апрацоўкі (зварка, цэментацыя, загартоўка і інш.) выкарыстоўвалі пры яго вырабе. Устанаўліваецца таксама ступень якасці і дасканаласці прылад працы, зброі, гасп. прадметаў, якія былі ў карыстанні насельніцтва ў мінулыя часы. Вынікі металаграфічных даследаванняў дазваляюць прасачыць развіццё металургіі і апрацоўкі бронзы і жалеза ў розныя гіст. перыяды.

*Літ.:* 109, 773. *М. Ф. Гурын.*

**МЕТАЛУ́РГІЯ** (ад грэч. metallurgéō здабываю руду, апрацоўваю металы), у першапачатковым значэнні працэс атрымання металаў і сплаваў з іх прыродных злучэнняў ці інш. сыравіны, а таксама працэсы, якія надаюць металічным сплавам новыя ўласцівасці шляхам змянення іх хімічнага саставу і структуры (будовы). Да М. адносяцца: працэсы апрацоўкі руд і атрымання металаў, іх рафінаванне, вытворчасць сплаваў, хімічная, хімічна-тэрмічная і тэрмамеханічная апрацоўкі металаў. На Беларусі М. жалеза ўзнікла ў сярэдзіне 1-га тысячагоддзя да н. э. Сыравінай служылі балотныя і лугавыя руды (бурыя жалезнякі). *Плаўка* праводзілася ў *домніцах,* у якасці паліва выкарыстоўваўся драўняны вугаль. Маса металургічнай прадукцыі вагалася ад некалькіх дзесяткаў да соцень грамаў. Паступова аб'ём вытворчасці жалеза павялічваўся і ў часы Кіеўскай Русі дасягаў 3—6 кг за адзін цыкл. З 14 ст. жалеза выплаўлялі на *рудніях.* Спачатку ўсе работы вяліся ўручную, пазней з'явіўся вадзяны прывод. На працягу многіх стагоддзяў М. жалеза ажыццяўлялася прамым аднаўленнем з руды. З узнікненнем металургічных заводаў у канцы 18 ст. ў маёнтку Руда пад Брэстам (Маларыцкі р-н) і ў Вішневе (Валожынскі р-н) Ашмянскага пав. стаў шырока практыкавацца двухстадыйны спосаб: выплаўка чыгуну ў доменнай печы, а затым перапрацоўка яго ў пудлінгавых печах (фрышэрках) у жалеза і сталь.

*Літ.:* 276, 1455, 1475. *М. Ф. Гурын.*

**МЕТО́ДЫКА АРХЕАЛАГІ́ЧНЫХ ДАСЛЕ́ДАВАННЯЎ,** спалучэнне метадаў, прыёмаў і тэхнічных сродкаў, што выкарыстоўваюцца пры вывучэнні *археалагічных крыніц* (рэчаў, помнікаў, культур і інш.) з мэтай пераўтварэння іх у гіст. крыніцы і факты. Абумоўлена ў значнай ступені прынятай навук. метадалогіяй, цесна звязана з методыкай гіст. даследаванняў. Канчатковая мэта М. а. д.— атрыманне дакладных звестак пра гісторыю, эканоміку, культуру, экалогію, грамадскі лад пэўнага этнасу, г. зн. рэканструкцыя гіст. працэсу. Побач са спец. метадамі для археалогіі характэрна выкарыстанне метадаў прыродазнаўчых і інш. навук.

Найбольш дакладны і пашыраны к о м п л е к с н ы  м е т а д — вывучэнне аднаго помніка або праблемы рознымі метадамі, спецыялістамі розных навук. дысцыплін. Да агульнанавук. метадаў, якія выкарыстоўваюцца з улікам спецыфікі археалогіі, належаць: н а з і р а н н е — вывучэнне пры спец. працэдуры матэрыялаў, выяўленых у выніку *раскопак археалагічных; параўнальна-тыпалагічны метад;* к о л ь к а с н ы — падлік рэчаў кожнага тыпу, іх працэнтнай долі ў комплексе, каэфіцыентаў падабенства комплексаў; *выбарачны метад;* в ы м я р э н н е — выяўленне індывідуальных і сярэдніх параметраў рэчаў, аб'ектаў і інш. з улікам дапушчальных памылак; э к с п е р ы м е н т — выкарыстанне стараж. тэхналогіі для атрымання падобных рэчаў, вызначэнне іх вытворчай здольнасці; т р а с а л а г і ч н ы — высвятленне функцый той ці інш. прылады па ўтвораных на ёй слядах. Праверка вывадаў практыкай пры археал. даследаваннях прынцыпова немагчыма. Таму яна замяняецца вывучэннем інш. аналагічных аднатыпных помнікаў, назапашваннем большай колькасці рэчаў, помнікаў, фактаў. У сувязі з гэтым важнае значэнне маюць а б а г у л ь н е н н е  і  а б с т р а г а в а н н е, якія служаць для вылучэння асноўнага, характэрнага, істотнага ў культуры, прататыпаў, складання мадэлі. На аснове ф а р м а л і з а ц ы і археал. крыніца і яе сувязі з іншымі могуць адлюстроўвацца ўмоўнымі знакамі і сімваламі. Уяўленне пра складаныя аб'екты фарміруецца спачатку па іх частках, потым у працэсе с і н т э з у адбываецца злучэнне частак у адно цэлае на аснове выяўленых прычынна-выніковых сувязей. І, наадварот, складаная крыніца (аб'ект) а н а л і з у е ц ц а, раскладаецца на больш простыя часткі. Археолаг імкнецца да назапашвання дастатковай фактАлагічнай базы, каб з дапамогай індукцыі выпрацаваць г і п о т э з у. Гіпатэтычны метад цесна звязаны з і д э а л і з а ц ы я й — вызначэннем узору рэчы, прататыпа, ідэальнага аб'екта, да вытворчасці якога імкнуўся стараж. чалавек. Пры наяўнасці адпаведнага абагульнення з дапамогай д э д у к ц ы і можна рабіць высновы пра часткі, элементы выяўленага цэлага, асобныя бакі гіст. працэсу ў адпаведнасці з падабенствам да ўжо вядомага, блізкасцю да пабудаванай мадэлі. Грамадства і яго матэрыяльная культура з'яўляюцца складанымі сістэмамі і даследуюцца метадам *сістэмнага аналізу.* Пры гэтым узнікае неабходнасць разглядаць структуры і фактары, што ўваходзяць у сістэму (гл. *Структурны аналіз, Фактарны аналіз*). У працэсе выкарыстання М. а. д. метады эмпірычнага ўзроўню (назіранне, параўнальна-тыпалагічны, колькасны, вымярэнне і інш.) змяняюцца на метады г і с т а р ы ч н ы  і  л а г і ч н ы, на тэарэтычныя (абстрагаванне, ідэалізацыя, фармалізацыя, аналіз і сінтэз, структурны і фактарны аналізы і інш.) і метатэарэтычныя (дыялектычны, сістэмны аналіз, *мадэліраванне*).

*Літ.:* 368, 749, 843. *У. Ф. Ісаенка.*

**МЕТРЫ́ЧНАЯ ПРО́БА,** проба, у аснову вызначэння якой пакладзены падзел чыстага металу на 1000 вагавых частак (падзел грама на 1000 мг). Напр., М. п. 750 паказвае, што ў сплаве 750 частак каштоўнага металу і 250 нізкароднага. М. п. з шагам шкалы ў 1 *праміле* дазваляе дакладна вызначыць чысціню высакароднага металу.

Пашырылася ў 19 ст. «Палажэнне аб манетным двары» 1845 увяло для ўнутранага карыстання на манетных дварах Расіі «прабірную разнавагу дзесяцічнага дзялення» на 1000 частак як найбольш дакладную, а для знешніх разлікаў пакінула «фунтавую разнавагу» ў 96 частак (гл. *Каратная проба*). «Прабірны статут» 1882 дазволіў прабірным палаткам ставіць на злітках М. п., манетныя двары ставілі яе з 1881. Паводле «Правілаў аб манетнай сістэме» 1885 устанавілася адзіная М. п. для ўсіх разлікаў манетных двароў. З 1927 М. п. выкарыстоўваецца ў СССР і для ювелірных вырабаў пасля прызнання ў 1925 Парыжскай метрычнай канвенцыі 1875. Для золата прыняты М. п.— 375, 500, 583, 750, 958 праміле, для серабра — 750, 800, 875, 916, 925, 980 праміле.

*Літ.:* 1528. *І. І. Сінчук.*

**МЕЧ,** доўгая рубячая і колючая халодная зброя. Мае выгляд прамога двухбаковавострага з тупым ці вострым канцом клінка і аддзеленай ад яго крыжавінай адкрытага дзяржання з навершам (галоўкай). Бронзавыя М. вядомы з пач. 1-га тысячагоддзя да н. э. Ужываліся пяхотай і конніцай да сярэдзіны 17 ст. На Беларусі М. з'явіліся ў 10 ст. і напачатку іх прывозілі з надрэйнскіх майстэрняў Цэнтр. Еўропы. Адзін з самых ранніх М. выяўлены ў Полацку. Гэта цэлы клінок з крыжавінай, навершам і надпісам «ULFBERT». Другі М. 10 ст. з Гродна таксама паходзіць з Зах. Еўропы, верагодна, са Скандынавіі. Ён мае падковападобны знак-кляймо. У 1988 у час земляных работ у гродзенскім гар. парку Пышкі было разбурана пахаванне стараж. воіна, у якім знойдзены 2 М. 12 ст. Мячы 11—13 ст. выяўлены ў курганах каля Брагіна (кляймо ў выглядзе «васьмёркі» з бронзавага дроту) і паблізу

в. Гарадзілава Валожынскага р-на (у рытуальных мэтах М. сагнуты ў 4 разы). У культурным пласце сярэдневяковага Крычава выяўлены М. таксама цэнтр.-еўрап. паходжання рубяжа 13—14 ст., які ўяўляе сабой прамы колюча-рубячы клінок вадоўжанай трохвугольнай формы з паўтарачным дзяржаннем без навершша (кляймо ў выглядзе стрэлкі). Акрамя таго, у многіх гарадах Беларусі (Ваўкавыск, Мінск, Слуцк, Брэст і інш.) знойдзены крыжавіны М.— жалезныя, а таксама бронзавыя са стылізаванымі галовамі птушак або драконаў па краях (Навагрудак). Насілі М. ў скураных пахвах з бронзавымі ці сярэбранымі наканечнікамі (выяўлены ў культурных пластах у Навагрудку — 2 бронзавыя, Полацку, Віцебску, Друцку і інш.). Як сведчаць знаходкі, перакрыжаванне М. мела даўж. 60—106 мм, а ўласна клінок (без дзяржання) — 50—80 см. У адрозненне ад Расіі, дзе ў 13—17 ст. пераважала шабля, на Беларусі асн. зброяй лічыўся М., бо толькі ім можна было адолець пласцiністыя ці суцэльнаметалічныя даспехі і нанесці пранікальны ўдар. Таму М. меў большую перавагу перад шабляй. У 13—16 ст. М. выраблялiся на Беларусі, частку іх закуплялі за мяжой (Польшча, Венгрыя, Германія). У 16 ст. на Беларусі з'явіліся двухручныя М., якімі карысталася наёмная зах.-еўрап. пяхота. Да канца 17 ст. на Беларусі існавалі цэхі мечнікаў, дзе гал. экзаменам на званне майстра лічыўся выраб М. На ўсю работу мечніку адводзілася 12 тыдняў.

*Літ.:* 117, 385, 424, 830, 1193, 1347. *М. А. Ткачоў.*



**Мячы** (злева направа): з Полацка (10 ст.), з-пад Брагіна (11—13 ст.), з Гродна (12 ст.), з калекцыі Баранавіцкага краязнаўчага музея (13 ст.), з Мінска (16 ст.).

**МІГРА́ЦЫЯ** (лац. migratio ад migro пераходжу, перасяляюся) у а р х е а л о г і і, перамяшчэнні стараж. насельніцтва, якія фіксуюцца сродкамі гэтай навукі. Як і ў дэмаграфіі, адрозніваюць унутраную і знешнюю М. Унутраныя М. звязаны з асваеннем неабжытых тэрыторый, гал. чынам па дробных рэках, водападзелах, або выкліканы пагаршэннем кліматычных умоў. Мяркуецца, што значнае павышэнне вільготнасці клімату ў 6—5 ст. да н. э. прымусіла насельніцтва *мілаградскай культуры* пакінуць значную частку гарадзішчаў і заснаваць паселішчы на больш высокіх месцах. Прыкладамі буйнейшых знешніх М. могуць быць перасяленні ў 3-м тысячагоддзі да н. э. носьбітаў баявых сякер культуры, у канцы 1-га тысячагоддзя да н. э. носьбітаў *штрыхаванай керамікі культуры,* каля сярэдзіны 1-га тысячагоддзя н. э. славянскіх плямён. Зрэдку ўдаецца звязаць археал. помнікі з вандроўнымі плямёнамі, якія называюцца ў пісьмовых крыніцах. Мяркуецца, што помнікі *зарубінецкай культуры* адносяцца да адной з груповак «бастарнаўпрыхадняў», вядомых з «Геаграфіі» Страбона. Раней у археалогіі была папулярнай міграцыйная тэорыя, якая тлумачыла любую змену ў археал. ландшафце як вынік чарговай знешняй М. Рэакцыяй на хібы гэтай тэорыі быў аўтахтанізм (гл. *Аўтахтоннасць*), які адмаўляў рэальнасць міграцый, тлумачачы ўсе змены развіццём мясц. культуры.

*С. Я. Расадзін.*

**МІЖЛЕДАВІКО́ЎІ,** эпохі працяглых пацяпленняў паміж зледзяненнямі ў *антрапагене.* Ад інтэрстадыяльных пацяпленняў (час пацяплення клімату і значнага скарачэння плошчы ледавіка паміж 2 стадыяламі аднаго і таго ж зледзянення) адрозніваюцца поўным знікненнем ледавіковага покрыва. У час М. разбураліся і згладжваліся марэнныя ўзвышшы і грады, паглыбляліся рачныя даліны, фарміраваліся глебы, паўсюдна раслі лясы, спачатку бярозава-хваёвыя, пазней мяшаныя, шыракалістыя і ў канцы М. зноў хваёвыя. На тэр. Беларусі большасць вучоных вылучаюць 4 М.: налібоцкае (560—480 тыс. г. таму назад); александрыйскае (460—320 тыс. г. таму назад), шклоўскае (250—200 тыс. г. таму назад) і муравінскае (110—95 тыс. г. таму назад). Цяпер працягваецца незакончаная геалагічная эпоха — *галацэн.* У М. былі найбольш спрыяльныя ўмовы для засялення чалавекам тэр. Беларусі.

*Літ.:* 67а. *А. Г. Калечыц.*

**МІКАЛА́ЕЎШЧЫНА,** стаянка эпохі неаліту каля в. Мікалаеўшчына Стаўбцоўскага р-на. На паўд. ускраіне вёскі, на краі правабярэжнай тэрасы Нёмана. Выявіў у 1976 М. М. Чарняўскі. Культурны пласт таўшч. каля 0,5 м. Знойдзены матэрыялы ранняга (дубічайскага) этапу нёманскай неалітычнай культуры. Частка знаходак адносіцца да позняга неаліту і бронзавага веку.

**МІКО́ЛЬЦЫ,** археал. помнікі каля в. Мікольцы Мядзельскага р-на.

Г а р а д з і ш ч а. За 1,5 км на ПнУ ад вёскі. Займае ізаляваны ўзгорак. З паўн. боку да яго прымыкае забалочаная катлавіна, з іншых трох бакоў — ворнае поле. Пляцоўка амаль круглая, памерам 40×35 м. Земляныя абарончыя збудаванні адсутнічаюць. Выявілі ў 1934 Г. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіч, абследавалі ў 1956 Л. В. Аляксееў, у 1979 Я. Г. Звяруга. Культурны пласт у цэнтры 0,2 м, па краях да 0,4—0,5 м. Раскопкі не праводзіліся.

С е л і ш ч а. Прымыкае да гарадзішча з З, Пд і У. Даследаваў 392 м² у 1981—83 Звяруга. Культурны пласт да 1,9 м. Выяўлены рэшткі наземных (слупавой канструкцыі) і паўзямлянкавых жытлаў, печаў-каменак і печаў-домніц. Знойдзены тыгель для плаўкі каляровых металаў, жал. сашнікі, сярпы, рыбалоўныя кручкі, шлак, бронзавыя пярсцёнкі, трапецападобныя падвескі, гліняныя біканічныя праслiцы, грузілы для сетак, касцяныя шпількі, кераміка банцараўскага тыпу і штрыхаваная. Сярод рэдкіх на тэр. Беларусі знаходак — бронзавая пальчатая фібула. Датуецца 6—9 ст.

*Літ.:* 430, 433. *Я. Г. Звяруга.*

**МІКРАЛІ́ТЫ** (грэч. mikrós малы, маленькі + líthos камень), дробныя дэталі складаных, састаўных прылад працы, якія выраблялiся з крэменю ў эпоху *каменнага веку,* пераважна ў мезаліце. Матэрыялам для М. служылі невялікія (5—30 мм) крамянёвыя абломкі тонкіх вузкіх пласцін або адшчэпаў, што апрацоўваліся спосабам крутога рэтушавання краёў. Сярод М. вылучаюцца вастрыі некалькіх тыпаў і вырабы геаметрычна правільных форм (сегменты, трохвугольнікі, прамавугольнікі, трапецыі), рэжучыя ўстаўкі з прытупленым рэтушшу краем і інш. М. звычайна ўстаўляліся ў пазы касцяных ці рагавых апраў, у дрэўкі стрэл і наканечнікі дзідаў, складалі лёзы кінжалаў, шыпы гарпуноў. Іх замацоўвалі ў прыладах з дапамогай смалы. У некаторых мезалітычных культурах паўд. паходжання вытворчасць М. з'яўлялася пануючай. Па наяўнасці на помніках некаторых тыпаў М. (трапецый) вызначаюць позні мезаліт. Вытворчасць М.— характэрная рыса *мікралітычных культур* (каморніцкай, рудавостаўскай, яніславіцкай і інш.).

*У. Ф. Ісаенка.*

**МІКРАЛІТЫ́ЧНЫЯ КУЛЬТУ́РЫ,** археал. культуры плямён *мезаліту,* якія жылі ў Міжземнамор'і, Малой Азіі, Зах. Еўропе, стэпавай і лесастэпавай зонах Усх. Еўропы. Для М. к. характэрна вытворчасць ма-

лых (8—40 мм) вырабаў з крамянёвых пласцін, што з'яўляліся часткамі складаных прылад працы — устаўкамі ў касцяныя або рагавыя дзяржанні, апраўы, стрыжні. Іх выраблялі з невялікіх правільна агранённых пласцін ці іх частак (сячэнняў) спосабам нанясення па краі дробнай густой рэтушы (мікралітычная тэхніка). Сярод прылад вузкія пласціны або адшчэпы з густа рэтушаваным краем (мікраграветы), скошаныя на канцы ці з дугападобным краем вастрыі (ланцэты), мікраразцы, шырокія, косыя і вузкія трохвугольнікі, трапецыі (скошаныя і раўнабокія, высокія і нізкія, вузкія і шырокія), разнастайныя тронкавыя наканечнікі стрэл, дробныя канцавыя і круглаватыя скрабкі, вугlавыя і бакавыя разцы, а зрэдку і апрацаваныя з двух бакоў устаўкі да рубячых прылад. Мікралітычная вытворчасць непарыўна звязана з высокім узроўнем апрацоўкі косці і рога. Выраблялiся не толькі апраўы, стрыжні з бакавымі пазамі для крамянёвых уставак, дзяржанні з пазам для тарцовага замацоўвання крамянёвага ляза, але і суцэльнакасцяныя прылады (наканечнікі, гарпуны, праколкі, кінжалы, сякеры, цёслы, долаты і інш.). Сярод мікралітычных культур (тыпу Тардэнуаза) — каморніцкая, яніславіцкая, рудавостраўская (днепра-прыпяцкая) і інш. (гл. адпаведныя арт.). Наяўнасць трапецый у комплексах М. к. сведчыць пра познюю стадыю іх развіцця (7—5-е тысячагоддзі да н. э.). Помнікі М. к. трапляюцца на Пд Беларусі: *Дарашэвічы, Мірaслаўка,* Ляскавічы (Петрыкаўскі р-н) і інш.

*Літ.:* 847, 1232. *У. Ф. Ісаенка.*

**МІКРАТАПАНІ́МІЯ** (грэч. mikrós малы, маленькі + tópos месца + ónyma назва, імя), сукупнасць назваў дробных геаграфічных аб'ектаў (мікратапонімаў) вакол аднаго населенага пункта ці на абмежаванай тэрыторыі, звычайна вядомых толькі мясц. жыхарам; уваходзіць у *тапанімію,* вывучаецца мікратапанімікай. Мікратапонімы з'яўляюцца крыніцай вывучэння гісторыі, геаграфіі, этнаграфіі, мовы.

Уключае ўласныя назвы ўзгоркаў, лугоў, крыніц, невял. балот, сажалак, ручаёў, гаёў, палёў і іх асобных участкаў, камянёў, дрэў, сцежак, невял. дарог, месцаў размяшчэння б. хутароў і інш. М. часцей за ўсё адлюстроўвае характэрныя асаблівасці геаграфічнага аб'екта, яго функцыянальныя прыкметы альбо імя ранейшага ўладальніка (Бярозавае балота, Крывы брод, Лысая гара, Сямёнаў хутар, гара Міцкевіча). Часта мікратапонімы прысвечаны гіст. ці міфалагічным персанажам, павер'ям і культам альбо адлюстроўваюць сапраўдныя ці легендарныя падзеі, якія адбываліся ў тым месцы (Божая горка, Святая гара, Дажбогаў камень, Напалеонаў дуб, Французская гара, Шведскія магілы, гара Змяінец, гара Царковішча, Камень-кравец, Князь-возера). У шэрагу выпадкаў такія назвы сведчаць пра існаванне археал. помнікаў, паколькі звязаны з легендамі пра курганы як шведскія альбо французскія магілы. З гарадзішчамі звязаны легенды, што нібыта на іх месцы стаяла царква (ці касцёл), якая праваліласяпад зямлю. На існаванне ў старажытнасці свяцілішчаў могуць указваць звязаныя з легендамі назвы: Дзявочая гара, Святая гара, Юр'ева гара, Паненская гара, Красная горка, Турава гара, Валова гара, Ігрышча, Пагулянка, Балваны, Святая крыніца, Бабіна гара, Перунова гара, Сіняя гара, Царкавішча. З курганамі звычайна звязаны мікратапонімы Курганне, Валатоўкі, Капцы, з гарадзішчамі — Гарадзішча, Гарадзец, Замчышча, Замак, Замкавая гара, Замэчак, Белая гара, Чорная гара. Сувязь пэўных тапонімаў з наяўнасцю археал. аб'ектаў улічваецца пры правядзенні археал. разведкі. Некаторыя мікратапанімічныя назвы адлюстроўваюць этнічныя кантакты або пакінуты этнасамі, што жылі тут раней. На бел.-літ. і бел.-латышскім памежжы захаваліся назвы тыпу Піля (ад літ. pilkalnis гарадзішча), Дзева блюдас (ад літ. блюда Бога). Існуе патрэба ў ахове і збіранні мікратапонімаў Беларусі.

*Літ.:* 12, 674, 776. *Э. М. Зайкоўскі.*



Гліняны гаршчок з гарадзішча Мілаград.

**МІЛАГРА́Д,** група археал. помнікаў каля в. Мілаград Рэчыцкага р-на.

Гарадзішча *мілаградскай культуры* і *зарубінецкай культуры.* За 1 км на Пн ад вёскі, ва ўрочышчы Калееўка, на мысе, утвораным правым берагам Дняпра і вял. ярам. Пляцоўка трохвугольнай формы, пл. 1 га, умацавана 2 валамі. Унутраны вал выш. 2 м мае П-падобную форму, аддзяляе жылую пляцоўку (пл. 0,4 га) ад знешняй гаспадарчай (пл. 0,6 га), пазбаўленай культурнага пласта. Выявіў у 1935 А. Дз. Каваленя, даследавалі ў 1952 Ю. У. Кухарэнка, у 1955, 1957—58, 1961 В. М. Мельнікоўская, абследавалі ў 1964 Л. Д. Побаль, у 1976 Г. В. Штыхаў, раскапана 800 м². Культурны пласт 0,4—0,6 м. У час раскопак у 1957 выяўлены рэшткі жытла дыям. 6 м, заглыбленага ў мацярык на 0,1—0,35 м. Па перыметры паглыблення жытла прасочаны слупавыя ямы, што сведчыць пра слупавую канструкцыю сцен. У цэнтры пабудовы расчышчаны яшчэ 2 ямы ад слупоў, якія падтрымлівалі дах. Жытло мела шатровае перакрыцце і прамавугольны выступ з зах. боку, дзе, відаць, быў уваход. Ва ўсх. частцы, недалёка ад сцяны, размяшчалася яма ад агнішча дыям. 1 м, глыб. 0,4—0,5 м. У запаўненні жытла знойдзены 360 фрагментаў зарубінецкага і мілаградскага посуду, 2 бронзавыя трохвугольныя падвескі з 3 васьмёркападобных спіралей, 6 бранзалетападобных кольцаў, бронзавыя і жал. позналатэнскія фібулы, 2 бронзавыя званочкі. На іншых частках пляцоўкі выяўлены рэшткі яшчэ некалькіх жытлаў слупавой канструкцыі і вял. кольcасці слупавых і гасп. ям.





Кераміка **мілаградскай культуры** з гарадзішча Гарошкаў.

На гарадзішчы знойдзены мілаград-

скія гаршкі з высокім адагнутым вонкі венчыкам і яйцападобным тулавам і паўсферычныя пасудзіны. Некаторыя фрагменты былі арнаментаваны ямкавымі або пальцавымі ўціскаimі па шыйцы. Зарубінецкая кераміка прадстаўлена грубаляпнымі гаршкамі, частка якіх упрыгожана зашчыпамі і насечкамі па краі венчыка, і глянцаванымі рабрыстымі міскамі. Сярод іншых знаходак — каменная зерняцёрка, жал. сярпы, тыглі, льячкі, гліняныя прасліцы і грузікі, бронзавая трапецападобная падвеска, арнаментаваная пунсонам, і інш. Датуецца 4 ст. да н. э.— 2 ст. н. э. Ад гарадзішча атрымала назву мілаградская культура.

Селішча мілаградскай і зарубінецкай культур. Прымыкае да гарадзішча з паўн. боку. Даследавала ў 1955 Мельнікоўская, раскапана 300 м². Культурны пласт слаба выражаны. Выяўлены рэшткі мілаградскага жытла прамавугольнай формы, заглыбленага ў мацярык на 0,1—0,2 м, у адным з вуглоў быў выступ. Знойдзены фрагменты позняй мілаградскай керамікі і адзінкавыя абломкі зарубінецкага посуду.

*Літ.:* 771, 772. *А. А. Егарэйчанка.*

**МІЛАГРА́ДСКАЯ КУЛЬТУ́РА,** археал. культура плямён, якія ў 7—3 ст. да н. э. насялялі басейн Дняпра ад сярэдняга цячэння Бярэзіны на Пн да р. Рось (Украіна) на Пд і ад Зах. Буга на З да р. Іпуць (у межах РСФСР) на У (тэр. сучасных Гомельскай, Магілёўскай, У Брэсцкай, Пд Мінскай абласцей, Пн Украіны). Назву атрымала ад гарадзішча *Мілаград* Рэчыцкага р-на. Для носьбітаў М. к. характэрны 2 тыпы паселішчаў: умацаваныя *(гарадзішчы)* і адкрытыя *(селішчы)*. Ва ўсх. частцы арэала, у парэччы Дняпра і Сажа, пераважалі гарадзішчы, якія размяшчаліся на мысах. Яны мелі земляныя ўмацаванні ў выглядзе валоў і равоў з неабароненага боку поля. У Прыпяцкім Палессі гарадзішчы размяшчаліся часцей за ўсё ў забалочаных мясцінах, а таксама ў поймах рэк на невысокіх узвышшах і ўмацоўваліся валамі і равамі з усіх бакоў. Нярэдка гарадзішчы складаліся з 2 і больш пляцовак, аддзеленых адна ад другой валамі (*Гарошкаў*, Мілаград і інш.). Неўмацаваныя паселішчы (селішчы) вядомы на ўсёй тэр. культуры, у Падняпроўі яны нярэдка прымыкалі да гарадзішчаў, на Палессі існавалі незалежна ад іх. Асн. тыпам жылля былі зямлянкі, наземныя або заглыбленыя ў зямлю жытлы пл. 12—16 м², разлічаныя на адну сям'ю. Пабудовы мелі прамавугольную або блізкую да яе форму, слупавую канструкцыю і выступ у адной са сцен, што з'яўляецца характэрнай асаблівасцю мілаградскіх жытлаў. У цэнтры іх прасочаны ямы ад слупоў, якія служылі адной з апор даху. Адкрытыя агнішчы ў круглых і авальных ямах размяшчаліся паміж апорным слупом і сцяной. Для гасп. мэт выкарыстоўваліся пабудовы тыпу хлявоў і ям-паграбоў. Пахавальныя помнікі — курганныя і бескурганныя могільнікі. Курганы — невысокія паўсферычныя насыпы дыям. 2—22 м пашыраны ў басейне р. Гарынь *(Дубай)* і належаць да ранняга этапу культуры. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце, часам на спец. пясчанай падсыпцы або ў драўляных скрынях, а таксама ў неглыбокіх ямах, выкапаных у мацерыку. Пахавальны інвентар складаўся з аднаго або некалькіх гаршкоў, радзей зброі, упрыгожанняў. Бескурганныя могільнікі або займалі прыродныя ўзвышэнні недалёка ад паселішчаў, або прымыкалі да валоў гарадзішчаў. Вельмі рэдка грунтавыя пахаванні трапляюцца на жылых пляцоўках гарадзішчаў. Пахавальны абрад — трупаспаленне за межамі могільніка. Старанна ачышчаныя ад кастра кальцыніраваныя косці ссыпалі на дно круглых або авальных ям глыб. 0,5—1 м. Пахавальны інвентар больш бедны, чым у курганах, складаўся з некалькіх кавалкаў гліняных пасудзін і зубоў свойскіх жывёл. Значна радзей трапляюцца зброя, упрыгожанні, прылады працы. Насельніцтва выраблялa гаршкі з прамым адагнутым вонкі венчыкам і яйцападобным або шарападобным тулавам, а таксама паўсферычныя пасудзіны без пазначанага венчыка. Вышыня і дыяметр па зрэзе венчыка 10—30 см, трапляюцца мініяцюрныя пасудзіны выш. 3—5 см. Большасць керамікі арнаментавана па венчыку, шыйцы або па плечуку ўціскаimі канцом круглай палачкі, насечкамі, пазногцевымі або пальцавымі ўцісканнямі, «жамчужынамі» і інш. Часам асобныя элементы арнаменту згрупаваны ў сістэмы (па 2—3 у кожнай) або складаюць трохвугольныя кампазіцыі. Рэчавы комплекс М. к. вельмі разнастайны: жал. сярпы скіфскага тыпу, матыкі, сякеры, кельты, нажы з гарбатай спінкай, шылы, наканечнікі коп'яў, скіфскія ўтулкавыя і мясц. тронкавыя наканечнікі стрэл, каменныя сякеры, зерняцёркі, таўкачы, бронзавыя і жал. бранзалеты, грыўні, пярсцёнкі, скроневыя кольцы, завушніцы, разнастайныя падвескі, фібулы, посахападобныя і цвікападобныя шпількі, бляшкі, шкляныя, халцэдонавыя, бурштынавыя, бронзавыя пацеркі. Разнастайныя вырабы з гліны, найперш гэта посудападобныя, шпулепадобныя, біканічныя, шарападобныя і інш. грузікі, часам арнаментаваныя ў выглядзе заштрыхаваных трохвугольнікаў, зорак, крыжоў, кружкоў і інш., а таксама гліняныя фігуркі жывёл. Асн. формамі гаспадаркі носьбітаў М. к. былі земляробства і жывёлагадоўля, паляванне і рыбная лоўля мелі дапаможны характар. Былі развіты хатнія рамёствы: здабыча



Кераміка **мілаградскай культуры** з гарадзішча Гарошкаў.



Прасліцы **мілаградскай культуры** з гарадзішча Гарошкаў Рэчыцкага р-на.

і апрацоўка жалеза, бронзаліцейная вытворчасць, прадзенне, ткацтва і інш. Плямёны М. к. знаходзіліся на стадыі развітога першабытнаабшчыннага ладу, не выключана існаванне патрыярхальнага рабства. Рэлігійныя ўяўленні базіраваліся на абагаўленні сіл прыроды, прычым культ сонца займаў цэнтр. месца, былі таксама культы каня, каровы, мядзведзя, ваўка і інш. Этнічная прыналежнасць М. к. застаецца спрэчнай. В. М. Мельнікоўская, Л. Д. Пободь і некаторыя інш. даследчыкі адносяць яе да славян. У процілегласць ім П. М. Траццякоў, В. В. Сядоў, А. Р. Мітрафанаў, Э. М. Загарульскі і інш. лічаць, што носьбіты М. к. былі балтамі.

*Літ.:* 387, 772, 1063, 1211.

*А. А. Егарэйчанка.*

**МІЛІЯРЫСІЙ** (лац. miliarense тысячны), 1) познарымская сярэбраная манета 4—5 ст. (лігатурная маса 4,55 г), вартасны эквівалент 1/1000 залатога фунта-лібры (327,45 г). Абарачаўся па курсе ў 1/14, з 397 г.— 1/12 соліда. 2) Візантыйская сярэбраная манета 6—11 ст. (лігатурная маса 3—2,50 г). У канцы 10—1-й пал. 11 ст. невялікая колькасць М. трапляла на рынкі Русі. На Беларусі сустракаецца ў адзінкавых экземплярах у скарбах (гл. *Навадворскі манетны скарб, Парэцкі манетна-рэчавы скарб, Старадзедзінскі манетны скарб),* а таксама знойдзены пры раскопках гарадзішча *Ізбішча* ў складзе караляў.




**Міліярысій.** Візантыя: Канстанцін VII Багранародны і Раман I Лакапін [920—944]; 2. Канстанцін VII [945—959]; 3. Андронік II [1282—1328].

**МІНЕЎШЧЫНА**, каменны могільнік канца 16—17 ст. каля в. Мінеўшчына Ваўкавыскага р-на. За 350 м на Пн ад вёскі, на невял. пагорку каля лесу. Выявіў у 1980 М. У. Вераціла, даследавала ў 1981—82 А. В. Квяткоўская (26 пахаванняў з трупапалажэннем). Сістэма размяшчэння магіл радковая, з Пд на Пн. Каменныя вымасткі прамавугольнай формы, у 1 слой, з 2—4 паралельных радкоў. У галаве пахаванняў пастаўлены вял. камяні з выбітымі крыжамі і крыжападобнымі знакамі (у 1 выпадку крыжы спалучаліся з салярнымі знакамі), каменны ідал, у нагах — меншыя камяні. Пад вымасткамі ў слоі гумусу выяўлены вугалі і фрагменты ганчарнага посуду (кераміка непаліваная і мораная, з шчыльнага цеста з дамешкамі дробнага пяску, зрэдку — жарствы), 2 бронзавыя пярсцёнкі. У запаўненні магіл (ямы чатырохвугольныя, з закругленымі вугламі) знойдзены вугалі, рэшткі дамавін, дошкі якіх мацаваліся цвікамі. Нябожчыкі ляжалі на спіне, галавой на ПнЗ. Пахавальны інвентар адсутнічае.

*А. В. Квяткоўская.*

**МІНІМАЛЬНАЯ КОЛЬКАСЦЬ АСОБІН**, метад археазаалагічнага даследавання для устанаўлення колькасці асобных відаў жывёл паводле касцявых рэштkаў, сабраных пры раскопках археал. помнікаў. Для падліку асобін выкарыстоўваюцца, як правіла, парныя косці, пры гэтым косці пэўнага віду падзяляюцца на правыя і левыя. Найбольшая колькасць аднайменных касцей дае мінімальную колькасць асобін пэўнага віду. Гэты метад шырока выкарыстоўваўся пры апрацоўцы астэалагічных калекцый з археал. раскопак у СССР, у т. л. і на Беларусі, аднак атрыманыя вынікі не заўсёды адлюстроўвалі сапраўдныя колькасныя суадносіны паміж відамі. У 1969 Ш. Бекані ўдасканаліў гэты метад у *верагодную разліковую колькасць асобін.*

*Літ.:* 1265. *Н. П. Александровіч.*

**МІНСК**, горад, сталіца Рэспублікі Беларусь, цэнтр Мінскай вобл. Палітычны, эканам., навук. і культурны цэнтр рэспублікі. 1589 тыс. жыхароў (1989). Мінск (летапісны Меньск, Менеск) упершыню ўпамінаецца ў «Аповесці мінулых гадоў» пад 1067. Стараж. дзядзінец (пазней *Мінскі замак*) пабудаваны на правым беразе р. Свіслач, пры ўпадзенні ў яе р. Няміга, у 2-й пал. 11 ст. для абароны паўд. межаў Полацкага княства. На думку некаторых гісторыкаў стараж. М. узнік за 16 км на З ад Мінскага замка, на беразе цяпер амаль высахлай р. Менка (адсюль назва горада), дзе захаваўся комплекс археал. помнікаў (гл. *Гарадзішча* Мінскага р-на), а ў канцы 11 ст. перанесены на сучаснае месца. У пач. 12 ст. (або ў канцы 11 ст.) на замчышчы пачалі будаваць мураваную *Мінскую Замкавую царкву.* У 12—13 ст. на Пд, ПдЗ і ПдУ ад замчышча вырас рамесны пасад з гандл. плошчай — Нямігскі рынак (з 16 ст. *Мінскі ніжні рынак*), вуліцы якога былі вымашчаны драўлянымі насцiламі з дрэнажнымі прыстасаваннямі, шчыльна забудоўваліся зрубнымі дамамі. Цэнтр. вуліца пасада Няміга ішла ўздоўж р. Няміга, з ПнЗ падыходзіла да Нямігскага рынку і далей да моста цераз р. Свіслач. У 12 ст. ўзніклі паселішчы на левым беразе Свіслачы каля Траецкай гары і на ПнЗ ад замчышча — Пятніцкі канец, тут была Пятніцкая вуліца і Пятніцкая царква (цяпер раён праспекта Машэрава). У 1946 В. Р. Тарасенка адкрыў і даследаваў 3 курганы. Пахавальны абрад трупапалажэнне без рэчаў. Пад насыпамі і побач выяўлены культурны пласт 12—13 ст. магутнасцю 1 м. Знойдзены рэшткі зямлянкі, печ для абпальвання глінянага посуду, шмат фрагментаў гаршкоў розных форм і памераў. У час веснавых паводак нізкія месцы затапляліся, таму жыхары пакідалі іх, перасяляліся далей ад берага Свіслачы, дзе ўзнікла Татарская слабада (з 16 ст. Татарскі канец). У 1983 на вуліцах Дзімітрова (б. Вялікая Татарская), Замкавай і Вызвалення былі праведзены археал. даследаванні (археолаг В. Е. Собаль). Раскопкі пацвердзілі, што Татарская слабада была заселена ў 2-й пал. 15 ст. У раскопе і шурфах быў знойдзены разнастайны гліняны посуд: размаляваныя ангобам паліваныя талеркі 17 ст., міскі, збаны, макотры і гаршкі 15—18 ст. На месцы драўлянага дома 17ст. знойдзены рэшткі кафлянай печы, сабрана калекцыя гаршковай і каробчатай кафлі. Апошняя была ўпрыгожана раслінным, зааморфнымі і геам. ўзорамі. Знойдзены таксама гліняная цацка-свістулька ў выглядзе лебедзя, ганчарнае лашчыла, керамічная шашка, жал. нажы, падкоўкі для абцасаў, ключ, вырабы з шкла — фрагменты шкляніц 16—17 ст., аптэчны посуд. У 1987 у час земляных работ паміж Палацам спорту і берагам Свіслачы Г. В. Штыхаў прасачыў культурны пласт магутнасцю 0,5—

1 м (месцамі 1,5 м), у якім знойдзены бытавая кераміка 16—19 ст., кафля з зялёнай палівай, фрагменты гаршкоў 12—13 ст. У час археал. даследаванняў у 1976—77, 1979, 1982 Траецкага прадмесця (вуліцы Камунальная набярэжная, Старавіленская, Багдановіча, Купалы) Собаль, А. А. Трусаў, З. С. Пазняк выявілі культурны пласт магутнасцю 0,6—2 м на тэр. клінічнай бальніцы, вуліцах СтарасЛабодскай і Чычэрына, 4—4,5 м каля Свіслачы. Знойдзена кераміка 12—13 ст. Шмат знаходак кафлі 14—18 ст. (геральдычная, міскападобная, каробчатая), ёсць бракаваныя экземпляры і паўфабрыкаты, што сведчыць пра мясц. вытворчасць кафлі ў 16—17 ст. Знойдзены міскі, талеркі, гаршкі, збаны, керамічныя скарбонкі, падсвечнікі, сальніцы, курыльныя люлькі, фрагменты *рэйнскага посуду,* жаночы абутак 18 ст. з драўлянымі абцасамі, шкляныя кварты з клеймамі і маноклі. У 1976, 1979—80 Собаль даследаваў культурны пласт Ракаўскага прадмесця (вуліцы Астроўскага, Вызвалення, Віцебская, Замкавая і Дзімітрова). Культурны пласт каля вуліцы Рэспубліканскай — 0,5—2 м, уздоўж вуліцы Няміга — 4,5 м, насычаны рэшткамі драўлянай забудовы 16—19 ст. Знойдзены ганчарны горан і каробчатая кафля канца 16 ст., упрыгожаная раслінным і геам. узорамі, кавалкі гліняных прэс-форм, пры дапамозе якіх выціскалі ўзор на кафлі, шмат бытавой керамікі 15—18 ст. (гаршкі, макотры, збаны, кубкі, талеркі, міскі). Большая частка вырабаў пакрыта палівай зялёнага або карычневага колеру. Сустракаецца посуд, упрыгожаны ангобнай размалёўкай пад празрыстую зялёную паліву. Знойдзены таксама шкляны посуд, жал. сякера, нажы, нажніцы, замкі, ключы, падковы, скураны абутак, манеты Рэчы Паспалітай і Рускай дзяржавы. У 16 ст. забудова развівалася на ПдУ і ПдЗ ад замка, дзе на ўзгорыстым узвышшы фарміравалася прамавугольная сістэма вуліц і новы гандл. цэнтр — Верхні рынак (сучасная пл. Свабоды). Тут пабудавана *Мінская ратуша,* узводзіліся культавыя і жылыя будынкі, паступова складаўся архіт. ансамбль плошчы, утварыўся новы гандл. цэнтр — Мінскі Верхні горад. Архіт. аблічча М. ў 16 ст. вызначалі вуліцы, што прылягалі да Верхняга і Ніжняга рынкаў, Траецкай гары, забудаваныя дамамі феадалаў, купцоў, багатых рамеснікаў, драўлянымі манастырамі з цэрквамі — Казьмадзям'янскім, Ушэсця, Петрапаўлаўскім, Святадухаўскім (мужчынскім і жаночым), кляштарамі з касцёламі манаскіх ордэнаў. У 1505 М. часткова спалены крымскімі татарамі. Пажары 1547, 1552, 1569 знішчылі амаль усю драўляную забудову, вял. бедствам быў пажар 1694. Значныя спусташэнні прынеслі руска-польская вайна 1654—67 (у М. засталося 2 тыс. жыхароў, каля 300 дамоў) і Паўночная вайна 1700—21, калі горад у 1708 захапілі шведы. У 17 ст. цэнтр горада пачалі забудоўваць мураванымі жылымі дамамі, ставілі манументальныя культавыя будынкі ў стылі барока (гл. *Мінскі дамініканскі касцёл*). У Верхнім горадзе пабудаваны касцёлы і кляштары бернардзінак і бернардзінцаў, бенедыкцінак, францысканцаў, *Мінская Святадухаўская царква,* Мінскія базыльянскія кляштары, у раёне Ніжняга рынку — Петны вал з бастыёнамі. У 18 ст. на Верхнім рынку закончана будаўніцтва касцёла і кляштара езуітаў у стылі барока, на плошчы і навакольных вуліцах пабудаваны мураваныя жылыя дамы і грамадскія будынкі, на Траецкай гары — манументальныя манастыры Ушэсця і Троіцкі з касцёламі баніфратаў (1700), кармелітаў (1703), бенедыкцінцаў (1764), марыявітак — «Дом марыявітак» (1771).

У канцы 11 — пач. 12 ст. М.— цэнтр Мінскага княства (першы



**Мінск.** Замчышча. Рэшткі абарончых збудаванняў. Канец 11 ст.



Залаты бранзалет 12 ст. **Мінск.**



Самшытавы грэбень 13 ст. **Мінск.**

рапаўлаўская царква, Петрапаўлаўскі манастыр (1618), на Траецкай гары — царква Ушэсця (1620). У 17 ст. горад значна разросся ў паўд. і зах. напрамках, вакол яго зроблены ўмацаванні — роў і земля-

кн. Глеб Усяславіч). У 1116 вытрымаў амаль двухмесячную асаду дружыны вял. князя кіеўскага Уладзіміра Манамаха, які ў 1119 захапіў горад і далучыў яго да сваіх уладанняў. З сярэдзіны 12 ст. М.

зноў цэнтр удзельнага княства, адзін з буйных габрадоў Полацкай зямлі. З канца 13 ст. Мінскае княства было пад уплывам літоўскіх князёў, у 1-й чвэрці 14 ст. ўвайшло ў ВКЛ. Пасля 1413 М. у складзе Віленскага ваяводства. У 1499 горад атрымаў магдэбургскае права. Пацвярджальным прывілеем на магдэбургскае права ад 12.1.1591 гораду нададзены герб: выява дзевы Марыі на блакітным полі. У выніку адм.-тэрытарыяльнай рэформы 1564—66 М.— цэнтр Мінскага ваяводства і павета. З 1793 у складзе Расійскай імперыі, адміністрацыйны цэнтр Мінскай губ. У 1796 у горадзе каля 1 тыс. дамоў, 5,8 тыс. жыхароў.

У сучасным М. тры гісторыка-архіт. ахоўныя зоны: Верхні горад (пл. Свабоды, кварталы паміж вул. Гандлёвай, Рэспубліканскай, Інтэрнацыянальнай і Нямігай), Траецкае прадмесце (квартал паміж вул. Багдановіча, Купалы, Старавіленскай і Камунальнай набярэжнай), Ракаўскае прадмесце (уздоўж вуліц Астроўскага, Вызвалення, Віцебскай, Замкавай, Дзімітрова) з археал. запаведнікам Мінскае замчышча, дзе захавалася планіроўка 16—19 ст. У межах горада археал. помнікі 10—13 ст.: *Азярцо, Пятроўшчына, Сеніца.*

*Літ.:* 234, 385, 1101, 1346.

*В. Е. Собаль, Г. В. Штыхаў.*

**МІНСКАЕ КАПІШЧА,** язычніцкае свяцілішча ў Мінску, у б. урочышчы Свіслачча на правым беразе р. Свіслач, насупраць дома № 8 па вуліцы Ульянаўскай (Дом настаўніка). Народная назва «малельня ля каменя». Існавала да 1905.

На прамавугольнай пляцоўцы 20×10 м, вымашчанай драўлянымі плашкамі, якія з аднаго боку апіраліся на палі і навісалі над вадой, размяшчаліся «свяшчэнныя» камень (Дзед, Стары, захаваўся; з'яўляецца помнікам рэспубліканскага значэння), дуб (Волат), агнішча (Агонь, ці Жыжа) і калодзеж са «святою» вадой. Жалуды з дуба таксама лічыліся «святымі». З трох бакоў пляцоўкі быў тын выш. 1,7—1,8 м з двума ўваходамі, плецены з галінак ялін. Асн. аб'ектам пакланення быў камень (валун чырвонага граніту памерам 1,0—1,3 м у аснове, узвышаецца на 1 м). Яму прыносілі ў ахвяру малако, віно, мёд, тканіну; на ніжнія галіны дуба вешалі ручнікі, стужкі. Агнішча было авальнай формы, больш за 1 м у папярочніку, выкладзена камянямі. Агню ў ахвяру прыносілі жывёлу (пеўняў, коз, свіней, авечак). Побач з капішчам стаяла хата святара (двух апошніх, бацьку і сына, звалі Севасцеямі). Жыхары наваколля хадзілі да малельні з просьбамі пазбавіць ад хваробы, дапамагчы адшукаць украдзенае, прывабіць жаніха ці нявесту і інш.

*Л. У. Дучыц, Э. А. Ляўкоў.*

**МІНСКАЯ БРАМА.** Існавала ў 12—13 ст. на стараж. дзядзінцы Мінска — Мінскім замчышчы. Рэшткі брамы выявілі ў 1984 Г. В. Штыхаў і Ю. А. Заяц, даследаваў у 1984—85 Заяц. Пабудавана з дрэва ў пач. 1-й пал. 12 ст. на месцы больш ранняга ўмацаванага праезду. Аснову брамы складалі 8 пустацелых клецяў-зрубаў памерамі 2,8×1,3—4,5×1,7 м, якія размяшчаліся ўздоўж праезду, па 4 з кожнага боку. Выкананы ў тэхніцы «ў чашку з астаткам». Агульныя памеры асновы брамы 17,1×7,4 м, разліковая выш. 12,5—13,5 м. Шыр. праёму-праезду 3,4 м. Непаралельнае размяшчэнне процілеглых клецей асновы сведчыць пра існаванне верхняга яруса, які звязваў клеці. Для павелічэння трываласці канструкцыі і надзейнасці абароны праезду брама складалася з 2 аб'ёмаў — вялікага і малога. Вялікі, ці асноўны, аб'ём апіраўся на тры пары клецяў. Над імі па перыметры брамы існаваў баявы насціл з брустверамі, які стыкаваўся з забраламі абарончых сцен, што стаялі на вале дзядзінца. На гэтым жа ўзроўні ў гал. аб'ёме над праездам маглі быць 2 памяшканні для варты і запасаў зброі. Праход паміж памяшканнямі дазваляў абаронцам дзядзінца бесперашкодна перамяшчацца над разрывам вала, які ўтварыўся праездам. Унутры гал. аб'ёму рабіліся баявыя насцілы для абароны праезду ўнутры брамы. Малы аб'ём выш. 6 м апіраўся на першую пару клецей з боку поля. Ён таксама меў баявыя насцілы. Двухаб'ёмная канструкцыя брамы дазваляла больш надзейна фланкіраваць знешні схіл вала, змяншала «мёртвую» прастору перад уездам, у 2 разы ўзмацняла эфектыўнасць абстрэлу падыходаў да яго. Дах гал. аб'ёму ўзвышаўся над перакрыццем абарончых сцен, што рабіла браму своеасаблівай архіт. дамінантай дзядзінца. Брама магла зачыняцца, як мінімум, на трое варот і пад'ёмных кратаў. У канцы 12 ці ў 1-й пал. 13 ст. разбурана.

*Літ.:* 418.

*Ю. А. Заяц.*



**Мінская Замкавая царква.** Падмурак.

**«МІНСКАЯ ДАЎНІНА»** («Минская старина»), зборнік дакументаў, артыкулаў і дакладаў па гісторыі, археалогіі і этнаграфіі Беларусі. Выдадзены ў 1909—13 у Мінску (4 выпускі, на рус. мове) Мінскім гісторыка-археал. к-там. У 1-м выпуску змешчаны артыкул А. П. Смародскага пра помнікі крывічоў у Мінскай губ., лекцыя Масальскай-Сурынай, прысвечаная курганам і старым дарогам у Ігуменскім і Барысаўскім паветах. драўляным палям сярод балот і гарадзішчам у Рэчыцкім павеце, Лагойску і мяст. Скрыгалава, паведамленне пра знойдзены ў Пінскім пав. каля р. Турыі жал. наканечнік кап'я, інкруставаны серабром і з 8 рунічнымі знакамі, якія, па вызначэнні спецыялістаў, уяўляюць сабой адзін з найбольш стараж. рунічных надпісаў. Паведамляецца пра знойдзеную каля мяст. Сыч (Ігуменскі пав.) урну з пахаваннем. капішчы каля Койданаўскага замка. сляды магілы Рагнеды ў Заслаўі. Змешчаны інвентарны вопіс рэчаў. якія паступілі ў музей к-та, у т. л. археал. знаходкі: змеявік, выяўлены ў Барысаўскім пав. (раскопкі Г. Х. Татура), 21 каменная сякера.

13 пячатак і крыжоў. У выпусках 2—4 большасць матэрыялаў прысвечана гісторыі праваслаўнай царквы і яе духавенству, а таксама звесткі пра сацыяльна-эканам. развіццё Мінскай губ., песні, казкі, паданні бел. народа, апісанне кнігі дакументаў Слуцкага Траецкага (Трайчанскага) манастыра за 1517—47, у якой ёсць звесткі пра побыт насельніцтва, слуцкія праваслаўныя брацтвы і інш. *Г. В. Штыхаў.*

**МІНСКАЯ ЗА́МКАВАЯ ЦАРКВА́.** Пабудавана часткова паміж 1069 і 1073 (на думку некаторых даследчыкаў, у пач. 12 ст.) на тэр. Мінскага замчышча. Былі зроблены падмуркі, ніжнія часткі апсід, паўд. і зах. сцен. Рэшткі храма выявіў і даследаваў у 1949—51 В. Р. *Тарасенка.* Падмурак знаходзіўся на глыб. 4 м ад паверхні, праразаў культурны пласт і быў паглыблены ў мацярык на 1,4 м. Паводле плана падмурка меркавалася паставіць кампактны крыжова-купальны храм, які ўключаў асн. квадратны ў плане аб'ём (12×12 м) з трыма паўавальнымі апсідамі (алтарная апсіда выступала за межы квадрата на 4,2 м). Сцены з абчасаных камянёў на вапнавай рошчыне (таўшч. 1,5 м) былі зроблены на выш. больш за 1 м. Сярэдзіна муроў запоўнена бутам. Унутры на сценах захаваліся ўчасткі, абліцаваныя вапняковымі пліткамі. Пліткі двух памераў: 29,5×20×9,5 см і 19×14,5×5,5 см, пакладзены падобна цаглянай муроўцы. У старaж.-рус. манументальным будаўніцтве гэтая дэталь больш нідзе не сустракаецца. У 1-й пал. 13 ст. на месцы царквы ўзнік некропаль. Выяўлена 21 пахаванне 13 ст. ў дамавінах скрынкавага тыпу з вял. хваёвых дошак на шыпах без цвікоў. Пахаванні без рэчаў. Захаваліся рэшткі шарсцянога адзення і скуранога мяккага абутку. Каля дзіцячага пахавання знойдзены залаты бранзалет вагой 75,5 г. У 1970-я г. на месцы, дзе стаяла царква, адноўлены падмуркі з бутавага каменю.

*Літ.:* 385, 1154, 1226. *А. А. Трусаў.*

**МІНСКАЯ РА́ТУША.** Існавала ў 17—19 ст. у Мінску. Мураваны будынак узведзены ў 1-й пал. 17 ст. на Верхнім рынку. У канцы 18 ст. ратуша перабудавана ў стылі класіцызму паводле праекта Мінскага архітэктара Ф. Крамера. Двухпавярховы прамавугольны ў плане будынак быў накрыты вальмавым дахам. Усх. і зах. фасады мелі чатырохкалонныя порцікі. Цэнтральная частка гал. фасада вылучана рызалітам, завершана чацверыковай вежай, накрытай паўсферычным купалам са спічаком. Вежа і балконы над порцікамі былі ўпрыгожаны кавaнымі агароджамі. У розны час у будынку размяшчаліся магістрат, суд, архіў, гаўптвахта, музычная школа і тэатр. У 1857 будынак разабраны. Раскопкі праводзілі ў 1978 і 1988 В. Е. Собаль і З. С. Пазняк. У 1978 раскапана 40 м². На глыб. 1,8—2 м выяўлены рэшткі падмуркаў і рэчы 16—18 ст. У 1988 раскапана 940 м². Культурны пласт 0,5—1,8 м, датуецца канцом 16—19 ст. Выяўлены рэшткі сцен і падлога двух памяшканняў, заглыбленая ў мацярык на 0,5—0,6 м. У адным памяшканні падлога выкладзена з цэглы, у другім — брукаваная. Будынак быў узведзены ў асноўным з малафарматнай цэглы-пальчаткі памерам 25—27×12—13,5×5—6 см у тэхніцы мяшанай муроўкі з выкарыстаннем камянёў (16—17 ст.). Знойдзены рэшткі калон ад гал. і зах. порцікаў, пабудаваных у 18 ст. Тут выкарыстана вялікафарматная цэгла памерам 27—29×14—15,5×6,5—8 см. У цэнтр. частцы ратушы знойдзены рэшткі кафельнай печы 17 ст. з паліванай кафлі зялёнага колеру, аздобленай раслінным узорам. Былі ў ратушы печы і з паліхромнай кафлі. У выніку археал. даследаванняў знойдзена шмат прадметаў матэрыяльнай культуры 17—19 ст.: цэгла, квадратная плітка падлогі, дахоўка, металічныя вырабы, замкі, ключы, падкоўкі, манеты, спражкі, пярсцёнак, фрагменты шкляных квартаў, бутэлек, аптэчнага і керамічнага посуду, сярод якіх вырабы, пакрытыя ангобнай размалёўкай і палівай. Выяўлены мушкетныя кулі часоў руска-польскай вайны 1654—67, курыцельныя керамічныя люлькі і інш.

*Літ.:* 305. *В. Е. Собаль.*

**МІ́НСКАЯ СВЯТАДУ́ХАЎСКАЯ ЦАРКВА́.** Існавала ў 1616—1936 у Мінску на Верхнім рынку. Спачатку была, відаць, драўляная. Каменны храм закладзены ў 1636. Пабудавана ў стылі рэнесансу. Аднанефавая, аднаапсідная пабудова, накрытая высокім двухсхільным дахам. Разам з Мінскімі базыльянскімі кляштарамі складала комплекс. Галоўны фасад быў падзелены на 3 часткі 4 пілястрамі карынфскага ордэра, цэнтр. частка з парталам і паўцыркульным аконным праёмам з ліштвамі; завершаны 3-ярусным атыкавым франтонам. Паміж пілястрамі ў плоскіх нішах былі маляваны выявы святых. Выкарыстанне манументальна-дэкаратыўнага жывапісу ў архітэктуры — адметная рыса бел. дойлідства часоў Адраджэння. Сцены бакавых фасадаў царквы праразалі вял. стральчатыя аконныя праёмы. З 1795 вядома як Петрапаўлаўскі сабор. Пасля пажару 1835 цалкам перабудавана ў псеўдарускім стылі. У 1936 узарвана.



Раскопкі **Мінскай Святадухаўскай царквы.** 1988—89.

Археал. даследаванні праводзіў у 1978, 1988—89 археал. атрад Ін-та гісторыі АН БССР сумесна з вытворчым аб'яднаннем «Белрэстаўрацыя». Даследаваны падмуркі і часткова сцены, якія захаваліся. Памеры царквы 17×34 м. Пабудавана ў тэхніцы мяшанай муроўкі з цэглы-пальчаткі з выкарыстаннем камянёў. Мела 6 унутраных контрфорсаў памерам 1,8×2,2 м, на якія апіраліся падпружныя аркі, што падтрымлівалі крыжовыя скляпенні. Падлога выкладзена керамічнай квадратнай пліткай, некаторая з узорам, пакрытым зялёнай палівай. У 17 ст. дах пакрыты пляскатай дахоўкай. Пад алтарнай часткай знаходзіўся падвал 5,8×6,5 м з цыліндрычнымі скляпеннямі выш. 2,4 м і цагля-

най падлогай. Невял. падвалы з цыліндрычнымі скляпеннямі былі ўздоўж паўн. і паўд. сцен. Пад падлогай выяўлены пахаванні святароў 17—18 ст. у драўляных трунах. Каля падмуркаў захаваўся культурны пласт 12—13 ст. Знойдзены разнастайны гліняны і шкляны посуд 16—19 ст., жал. скабяныя вырабы, замкі, ключы, манеты 17 ст., кафля 15—19 ст., у т. л. чатырохпялёсткавая гаршковая 15 ст. Выяўлены элементы інтэр'ера 17 ст.— фрагменты карнізаў, дэталі скульптур, нервюрная цэгла 17 ст. Даследаваннямі высветлена, што царква злучалася з кляштарам базыльянак цаглянай пераходнай галерэяй (пабудавана ў канцы 17 ст.; шыр. 2,3 м, таўшч. сцен 70 см, месцамі захаваліся на выш. 1,2 м). Да царквы з паўн. боку прымыкала капліца. Выяўлены рэшткі 2 яе сцен таўшч. 85 см, выкладзеных з цэглы-пальчаткі і ў той жа тэхніцы, што і царква; мела падвал.

*Літ.:* 305. *У. М. Дзянісаў, З. С. Пазняк, В. Е. Собаль*

**МІНСКАЯ СЯДЗІБА ВАНЬКО́ВІЧАЎ.** Пабудавана ў канцы 18 ст. на паўд.-ўсх. ускраіне Мінскага Верхняга горада (цяпер вул. Інтэрнацыянальная). Належала бел. мастаку В. Ваньковічу. Уяўляла сабой аднапавярховы будынак з мансардай, на мураваным цокалі, перад ім быў двор — курданёр з 2 флігелямі, на падворак вяла мураваная брама. Даследавалі ў 1980 археалагічныя экспедыцыі Спецыяльных навукова-рэстаўрацыйных вытворчых майстэрняў Мін-ва культуры БССР пад кіраўніцтвам А. А. Трусава, у 1983—84 сумесная экспедыцыя Ін-та гісторыі БССР (З. С. Пазняк) і СНРВМ (І. М. Чарняўскі), у 1988—89 экспедыцыя Беларускага рэстаўрацыйна-праектнага ін-та (А. І. Дзярновіч). Археалагічнымі даследаваннямі выяўлены фрагменты сцен пабудоў канца 17 — пач. 18 ст. (цэгла памерам 30×14—17×8 см) і склеп 17 ст. пад паўд.-ўсх. часткай дома, фрагменты зялёнай паліванай і тэракотавай кафлі, керамічнага паліванага і непаліванага посуду, шкляных бутэлек, шкло, хвалістая дахоўка. Першапачаткова на тэр. сядзібы быў схіл пагорка, падсыпанага ў 17—18 ст. Знойдзеныя фрагменты тэракотавай кафлі 17 ст. з гербам роду Ваньковічаў даюць падставу меркаваць, што ў гэты час тут знаходзілася сядзіба продкаў Ваньковіча.

З паўн.-ўсх. боку сядзібы знаходзіўся флігель, знішчаны ў 1975. Даследавалі ў 1980 Трусаў і В. Е. Собаль, у 1988 Дзярновіч (і ў 1984), Дз. Л. Яцкевіч, у 1990 А. К. Краўцэвіч. Ускрыта 370 м². Будынак быў драўляны, двухпавярховы, цокальны паверх мураваны. Падмурак на глыбіні 1,2 м выкладзены з валуноў дыяметрам 25—45 см, змацаваных вапнава-пясчаністай сумессю, у муроўцы цэгла двух тыпаў: цёмна-чырвонага колеру памерам 27—29×12—13,5×5—6,5 см з папярэчнымі слядамі дошчачкі на паверхні і светла-чырвонага колеру памерам 25—28×11—12,5×6,5—7,5 см з чыстай паверхняй. Знойдзены матэрыялы 16—18 ст.: фрагменты цэглы-пальчаткі 17 ст., цэглы канца 18 ст. з літарамі «А» і «М» (магчыма, марка мануфактурнай цагельні Андрэя Макарэвіча, што дзейнічала ў Мінску з 1780); вільчаковая паўцыркульная дахоўка 18 ст., паліхромная кафля 1-й паловы 17 ст. з раслінна-геаметрычным арнаментам; бытавы посуд (фрагменты паліваных і непаліваных гаршкоў, рынак, талерак, місак); венчыкі гаршкоў 16 ст., з амаль цыліндрычнай шыйкай і сярэднявыпуклымі плечукамі, 1-й паловы 18 ст. з кароценькай прамой шыйкай, край венчыка мог быць нахілены; гаршкоў з S-падобным профілем і выступам па краі шыйкі. Паліва пераважна зялёнага, радзей карычневага колераў, упершыню знойдзена кафля з датай 174... Знойдзены фрагменты шкляных квартаў, шклянак і бутэлек 2-й паловы 18 ст.





Фрагмент кафлі з мяркуемым гербам Ваньковічаў (1), тэракотавая кафля-каронка (2), зялёная паліваная талерка (3) з **Мінскай сядзібы Ваньковічаў.**

*Літ.:* 487.

*А. І. Дзярновіч, І. М. Чарняўскі.*

**МІНСКІ АБЛАСНЫ КРАЯЗНА́ЎЧЫ МУЗЕ́Й.** Заснаваны ў 1959 як Маладзечанскі абласны краязнаўчы музей (сучасная назва з 1960). Адкрыты ў 1964. Мае больш за 10,5тыс. археал. экспанатаў (1991). Археал. раздзел музея ўключае матэрыялы раскопак на тэр. Мінскай вобл., у т. л. стаянак *Кругліца, Малмыгі,* паселішчаў *Скема, Зацэнне* (крамянёвыя разцы, наканечнікі стрэл, нажы з зубчатай рэтушшу, гліняная вастрадонная пасудзіна, фрагменты керамікі з ямачна-грабеньчатым арнаментам); гарадзішчаў *Дзядзілавічы, Багушэвічы, Малышкі* (жалезныя нажы, гарпуны, бронзавыя бранзалеты, пярсцёнкі, арнаментаваныя гліняныя праслiцы), *Некасецк* (фрагменты штрыхаванай керамікі); *Васькаўцы* (бронзавы пярсцёнак 11—12 ст.); *Старабарысаў* (залатое скроневае кольца 12—13 ст.); курганоў і курганных могільнікаў Анусіна, Васілеўшчына, каля в. Даўбарова і Дуброва Мінскага р-на (пацеркі сердалікавыя і шкляныя, кольцы, скроневае кольца, пярсцёнкі, спражка, праколка, фрагменты сярпа і нажа, керамікі), рэшткі шлаку і крыц з былой домніцы каля в. Дамашы. Захоўваюцца матэрыялы раскопак стараж. Мінска, Лагойска, Заслаўя, Маладзечна, Нясвіжа, Мядзела, Старабарысава, Лоска. Экспануецца першы адкрыты ліст на пергаменце на права правядзення археал. раскопак і інш. даследаванняў, выдадзены 14.12.1818 А. Чарноцкаму (З. Я. *Даленга-Хадакоўскаму*). У нумізматычную калекцыю ўваходзяць частка скарбу дырхемаў з в. Сіманы Мядзельскага р-на; *Мароськаўскі манетны скарб* 16—17 ст.; скарб манет 17—1-й паловы 18 ст. Рэчы Паспалітай з в. Ваўчкі Маладзечанскага р-на (шасціграшовікі, тымфы, орты, чвэрць патагоны, паўпатагоны).

*Літ.:* 516, 779. *Г. А. Каханоўскі, Л. І. Дайноўская.*

**МІНСКІ ВЕ́РХНІ ГО́РАД,** комплекс археал., горадабудаўнічых, гістарычных помнікаў 12—19 ст. у Мінску. Ахоплівае тэр. сучасных пл. Свабоды, вуліц Бакуніна, Герцэна, Гандлёвай, Музычнага завулка, часткі вуліц Энгельса і Леніна (да праспекта Скарыны), Інтэрнацыянальнай (ад вуліцы Камсамольскай да Я. Купалы), Рэвалюцыйнай і Нямігі (да вуліцы Камсамольскай). На тэр. Верхняга горада размяшчаўся т. зв. Верхні рынак (з 1860 Саборная пл., з 1917 пл. Сва-

боды). У 16—19 ст. тут пабудаваны найб. значныя адм., культавыя і жылыя будынкі ў стылі барока і класіцызму, якія сваім абліччам складалі своеасаблівы ансамбль: *Мінская ратуша,* гасціны двор, касцёл і кляштар бернардзінцаў, касцёл і кляштар бернардзінак, касцёл і кляштар езуітаў, касцёл і кляштар францысканцаў, касцёл і кляштар бенедыкцінак, *Мінскі дамініканскі касцёл, Мінская Святадухаўская царква,* Мінскія базыльянскія кляштары, касцёл бенедыкцінцаў, жылыя будынкі 17—19 ст. На тэр. М. В. г. створана ахоўная зона.

Археал. даследаванні тэр. Верхняга горада праводзіў у 1978—84 археал. атрад ін-та гісторыі АН БССР (кіраўнік З. С. Пазняк) пры ўдзеле вытворчага аб'яднання «Белрэстаўрацыя» і Мінскага пединстытута; у 1985 даследаваў В. Е. Собаль, у 1988 — Дз. Л. Яцкевіч. У раёне пл. Свабоды культурны пласт 1—4 м, яго стратыграфія парушана перакопамі. Знойдзены матэрыялы 12—13 ст. На глыб. 2 м раскапаны рэшткі фундамента і выкладзенага камянямі склепа ратушы. Знойдзены архіт.-буд. кераміка 17—18 ст., чорнаглянцаваная кераміка, размаляваныя шкляныя вырабы, кафля, бытавы посуд, гліняныя курыльныя люлькі, рус. манеты 18—19 ст. Выяўлены прыкметы пажараў. Па вул. Інтэрнацыянальнай даследавана частка фундамента кляштара бернардзінак 17 ст., аснова якога ляжыць на глыб. 4,1 м на падушцы з камянёў. Знойдзена шмат фрагментаў керамікі 15—17 ст., цагляных плітак для падлогі, цэглы-пальчаткі, бытавога посуду 15—19 ст., шкла, вырабаў з металу. Пад падлогай кляштара раскапаны каларыферы з цэглы на гліняна рошчыне для ацяплення памяшкання. Вывучана барочная сістэма муравання. У Музычным завулку і на вуліцы Герцэна культурны пласт да 2 м. Знойдзена кераміка 12—13 ст., матэрыялы 14—15 ст., у т. л. гаршкападобная і каробчатая кафля з манаграмамі і гербамі, шкляныя штофы (некаторыя з кляймом і надпісам «Лондан» на англійскай мове), нажы, ключы, шпоры, фрагменты *рэйнскага посуду* і інш. Да 16 ст. адносяцца фрагменты тэракотавай кафлі з раслінна-геам. малюнкам, да 17 ст.— фрагменты паліванай і непаліванай керамікі (донца, ручкі ад рынак), кафлі, солід ВКЛ і інш.

*Літ.:* 94, 305, 1106.

*У. М. Дзянісаў, З. С. Пазняк.*

**МІНСКІ ДАМІНІКАНСКІ КАСЦЁЛ.** Існаваў у 1-й пал. 17 — 1-й пал. 20 ст. ў Мінску. Закладзены каля 1622 на Верхнім рынку. Пабудаваны ў стылі барока з буйнапамернай цэглы-пальчаткі на моцным вапнавым растворы. Унутраныя ўчасткі сцен і пілястраў забутаваны вял. камянямі. Рэканструяваны ў пач. і 2-й пал. 18 ст. Уяўляў сабой прамавугольную ў плане 3-нефавую 6-слуповую базіліку з павышаным цэнтр. нефам, які пераходзіў у прэсбітэрый, і 2 капліцамі ў ПдЗ частках бакавых нефаў. З ПнЗ да прэсбітэрыя была прыбудавана прамавугольная ў плане сакрысція. Бязвежавы гал. фасад быў падзелены пілястрамі на 3 часткі: цэнтр. завяршалася магутным атыкавым франтонам з невял. вежачкай, бакавыя — вял. сіметрычнымі купаламі на высокіх 8-гранных светлавых барабанах над капліцамі. Сцены касцёла былі расчлянёны пілястрамі, лучковымі і арачнымі аконнымі праёмамі. У інтэр'еры, упрыгожаным фрэскавым жывапісам, было 13 драўляных і стукавых алтароў.

Даследаваў у 1978, 1985—86 археал. атрад Ін-та гісторыі АН БССР (кіраўнік З. С. Пазняк). На пл. 1000 м² раскапаны цэнтр. і правы бакавы нефы. У бакавым нефе адкрыты 2 вял. падвальныя залы. Адна пл. 150 м² мела 4 уваходы і 2 акны-байніцы, прыстасаваныя, відаць, для ніжняга мушкетнага бою. У другой зале (у 1,5 раза большай) выяўлены канструкцыі для «падэшвеннага» гарматнага бою, захаваліся 2 байніцы. У цэнтр. нефе выяўлены склеп з пахаваннямі 17 ст.: 10 грабніц, складзеныя з цэглы-пальчаткі. Амаль усе пахаванні разбураны і разрабаваны ў 17—18 ст. У 17 ст. храм меў абарончае значэнне. Таўшч. сцен фасадаў 4 м, бакавых сцен каля байніц мушкетнага бою — да 3 м, каля байніц падэшвеннага бою — да 5 м.

Знойдзены сярэбраныя і медныя манеты 16—17 ст., фрагменты паліваных кафлі і посуду, жал. гарматнае ядро, вырабы са шкла, медзі, бронзы, жалеза, шмат тэракотавай паліванай зялёнай і блакітнай цаглянай пліткі для падлогі розных памераў і форм (блакітная паліва на плітцы 17 ст. выяўлена ў Беларусі ўпершыню). Знойдзена шмат фрагментаў плоскай дахоўкі-пальчаткі пач. 16—17 ст., каробчатая тэракотавая кафля з выявамі мужчын з кордамі ў руках і жанчын у намітках і сукенках-крыналінах. Унікальная кампазіцыя выканана ў тыпова нар. манеры, верагодна, самім рамеснікам. Пры раскопках пад пластом нівеліровачнага пяску выяўлены культурны пласт 20—50 см чорнага колеру, дзе знойдзены кераміка і кафля толькі 16 ст. Шмат фрагментаў сталовага і кухоннага посуду (гаршкі, талеркі, міскі, латкі, рынкі, макотры, куфлі, кружкі, стопкі, гладышы, скарбонкі) з зялёнай, салатавай, чырвонай, жоўтай, чырвона-карычневай палівай. Знойдзены таксама *рэйнскі посуд,* фрагменты каробчатай манахромнай і паліхромнай кафлі з выявамі львоў, грыфонаў, яшчарак і інш. геральдычных элементаў.



Забудова заходняй часткі **Мінскага замка** 13 ст. Рэканструкцыя П. А. Русава, мастак А. Р. Зарх.

У культурным пласце выяўлена магіла шыр. 3 м, глыб. 80 см, запоўненая шкілетамі. У магіле знойдзены розныя рэчы 1-й пал. 17 ст. Масавае пахаванне пад сцяной храма зроблена, відаць, у 1655, калі Мінск быў вынішчаны і спалены ў час руска-польскай вайны 1654—67.

*Літ.:* 307, 1362.

*У. М. Дзянісаў, З. С. Пазняк.*

**МІНСКІ ЗАМАК,** умацаваны цэнтр, дзядзінец стараж. Мінска, на аснове якога ўзнік горад і вакол якога ён рос і развіваўся. У стараж.-рус. летапісах вядомы пад назвай «град», «горад», у актах 15—17 ст.— замак, пазней — Стары горад, Старое места, Стары замак, Замкавая гара, Замчышча. Дзядзінец пабудаваны ў 2-й пал. 11 ст. на двухметровым узвышшы сярод нізкай мясцовасці правабярэжнай поймы р. Свіслач і вусця р. Няміга. Абнесены пясчана-гравійным валам выш. каля 8 м, на грэбені якога ўзведзены драўляныя сцены, з паўд. боку была брама тыпу вежы (гл. *Мінская брама*). Замак меў форму няправільнага авала (даўж. ад Свіслачы да процілеглага зах. краю 300 м, шыр.

120—150 м, пл. 3 га). Абкружаны з усіх бакоў вадой, выглядаў умацаваным востравам. Даследавалі ў 1945—51, 1957 В. Р. Тарасенка, у 1958—61 Э. М. Загарульскі, у 1976 Г. В. Штыхаў, у 1981—82 В. Е. Собаль, Штыхаў, у 1983—87 Штыхаў. Выяўлена планіроўка ўсх. часткі дзядзінца, якая прымыкае да правага берага Свіслачы, раскапаны драўляныя канструкцыі ў насыпе вала, грэбля і мост цераз Нямігу, рэшткі некалькіх вуліц і завулкаў. Галоўная вуліца шыр. 4 м перасякала дзядзінец з У на З, ад яе адыходзілі вузкія завулкі. Шыр. астатніх вуліц была 3 м, праезная іх частка абавязкова масцілася драўляным насцілам. Паміж вуліцамі размяшчаліся двары гараджан пл. 220—250 м². Яны ўключалі 1—2 жылыя пабудовы, хлявы, клеці, майстэрні. Двор агароджваўся parканам з бярвён, свабодная ад забудовы плошча масцілася насцілам. У 12—13 ст. у замку было 80—82 двары і 400—500 жыхароў. Раскапаны рэшткі больш за 150 пабудоў, частка з іх з'яўлялася жыллём. Жытлы аднакамерныя, часам пяціценныя, зрубнай канструкцыі, пл. 9—25 м², з дашчанай падлогай, мелі двухсхільныя дахі без столі, дзверы (выш. не больш за 1,6 м), зрэдку ганак. Гліняныя печы ў выглядзе невял. скляпення на невысокай драўлянай аснове — падпеччы — размяшчаліся ў куце з правага ці левага ад уваход боку і паліліся па-чорнаму. У куце печы, вышэй яе скляпення, мацаваўся тоўсты «каневы слуп», які служыў апорай для палкоў, што размяшчаліся над печчу. Валаковыя вокны ў сценах былі маленькія. Выяўлены фундамент мураванага храма пачатку 12 ст. (гл. *Мінская замкавая царква*). Матэрыялы раскопак сведчаць, што насельніцтва ў 11—13 ст. займалася рамяством, гандлем, сельскай гаспадаркай.

У культурным пласце знойдзены інструменты рамеснікаў (кавальскія абцугі, тачыльныя брускі, сякеры, шылы, драўляныя капылы для вырабу абутку), шматлікія жал. рэчы побыту (нажы, нажніцы, замкі, ключы, крэсівы), вырабы з каляровых металаў (бранзалеты, пярсцёнкі, падвескі), дрэва (бочкі, вёдры, рыдлёўкі, вілы), з косці і рога (грабяні, дзяржанні нажоў), са скуры (абутак, паясы, ножны), а таксама прадметы ўзбраення воіна і рыштунку конніка (наканечнікі коп'яў і стрэл, рэшткі кальчуг, цуглі, шпоры, страмёны). Выяўлены унікальныя ўзоры каменнай дробнай пластыкі: двухбаковы абразок 1-й пал. 13 ст. з выявай Маці Боскай Агіясарытысы, ці Халкапратыйскай, на адным баку, на адвaротным — выява апостала Пятра. На другім абразку таго ж часу выявы Міколы і архідыякана Стафана.

Умацаванні М.з. паспяхова вытрымалі асаду магутнага войска паўд.-рус. князёў і іх саюзнікаў у 1104 і 1116, няўдалымі былі спробы полацкага кн. Рагвалода Барысавіча ўзяць замак прыступам у 1159, 1160—61. Доўгі час замак быў палітычным, ваенным і культурным цэнтрам, рэзідэнцыяй князёў, пазней велікакняжацкіх і каралеўскіх намеснікаў. У 1506 войскі крымскага хана Махмет-Гірэя, захапіўшы горад, не здолелі авалодаць крэпасцю. У замку былі ваенны гарнізон (залога), правіянцкія крамы, дом кіеўскага мітрапаліта, уладанні князя Астрожскага. У вежы каля замкавай брамы размяшчалася турма. У замку знаходзіліся цэрквы Мікалаеўская і Раства Багародзіцы. Умацаванні замка будавалі жыхары горада і навакольных вёсак, у яго карысць ішлі судовыя пошліны і спец. падаткі, прыбыткі ад млына, што стаяў на левым беразе Свіслачы. З канца 17 ст. замак стаў паступова занепадаць, да канца 18 ст. асталіся земляныя валы, зафіксаваныя на планах Мінска канца 18 — пач. 19 ст.



Бранзавая пасудзіна 13 ст. з **Мінскага замка.**

*Літ.:* 46, 234, 385. *Г. В. Штыхаў.*

**МІНСКІ НІЖНІ РЫНАК 15—19 ст.** Размяшчаўся ў міжрэччы правых берагоў рэк Свіслачы і Нямігі, на Пд ад умацаванага замка Мінска. Упершыню ўпамінаецца ў дакументах 15 ст. Раскопкі каля тэр. рынку праводзілі супрацоўнікі АН БССР у 1974 і 1987—88. Выяўлены рэчавы матэрыял сведчыць пра матэрыяльную культуру 16—17 ст. Рынак сфарміраваўся, верагодна, на месцы гандл. часткі стараж. пасада. Знойдзены прадметы 11—13 ст. Пісьмовых сведчанняў пра існаванне тут стараж. пасада няма. Паводле аналогіі з іншымі стараж.-рус. гарадамі можна меркаваць, што каля ўязной брамы горада звычайна фарміраваўся гандл. пасад, які пазней станавіўся рынкам. Верагодна, так сфарміраваўся М.Н.р. Да яго вялі вуліцы з Верхняга рынку, з замка, з Рыбнага рынку, мост цераз Свіслач злучаў М.Н.р. са шляхам на Лагойск і Барысаў. Плошча М.Н.р. ў 16—17 ст. была забудавана сядзібамі заможных гараджан, якія займаліся вытворчасцю і збытам сваіх вырабаў, продажам і абменам прывазных тавараў. На адной з сядзіб знойдзены мясц. вырабы са шкла (у т. л. бракаваныя шкляныя гузікі — сведчанне абучэння вучня) і імпартныя тавары. На другой сядзібе выяўлены арнаментаваныя касцяныя накладкі і сыравіна для іх вырабу (пілаваныя косці жывёл, што сведчыць пра выраб з іх пласцін). Тагачасныя дамы будавалі з дрэва ў 1—2 паверхі. На сядзібе ўзводзілася не менш трох дамоў жылога і гасп. прызначэння. Пабудовы ўзводзіліся паралельна вуліцы. На месцы старых будынкаў, якія згарэлі ці састарэлі, ставілі новыя. Іх сцены звычайна паўтаралі арыенціроўку і размяшчэнне папярэдніх. Вуліцы і маставыя таксама не мянялі свайго напрамку і нагадвалі больш раннія. У будынках выяўлены печы, абліцаваныя кафляй зялёнага або паліхромнага колеру.

*Літ.:* 117. *П. А. Русаў.*

**МІНСКІ ЦАРКОЎНА-АРХЕАЛАГІЧНЫ МУЗЕЙ.** Існаваў у 1908—15. Створаны пры *Мінскім царкоўным гісторыка-археалагічным камітэце.* Ініцыятарам і кіраўніком музея быў А. К. *Снітка*, які за свой кошт пабудаваў для яго будынак (зараз Дом работнікаў мастацтваў). Меркавалася арганізаваць гісторыка-археал. музей, аднак афіцыйныя ўлады пераарыентавалі мецэната на стварэнне царкоўна-археал. музея. Апрача калекцыяніравання царкоўных прадметаў, праводзіліся археал., археаграфічныя, фальклорна-этнаграфічныя экспедыцыі. Меў 1363 адзінкі захоўвання, у т. л. археал. знаходкі з-пад Радашковіч, Слуцка, Пінска і інш. З Турава разам з матэрыяламі раскопак гарадзішча быў прывезены саркафаг. Некаторыя археал. экспанаты былі перададзены з музея Г. Х. *Татура.* Зберагаліся рукапісы кніг.: Тыпікон 16 ст., Апостал 16 ст., Мінея агульная канца 17 ст., Сінопсіс 18 ст., архіў Слуцкага Троіцкага (Трайчанскага) манастыра, запісы фальклору, прадметы этнаграфіі, нумізматыкі, геральдыкі, сфрагістыкі. Было каля 1900 тамоў кніг, пераважна гіст. характару. У 1915 эвакуіраваны ў Разань, у 1922 часткова вернуты ў Мінск і перададзены ў Бел. дзярж. музей. Лёс асн. часткі экспанатаў музея невядомы, некаторыя рэчы, у т. л. рукапісы, знаходзяцца ў *Нацыянальным музеі гісторыі і культуры Беларусі.*

*Літ.:* 411. *Г. А. Каханоўскі.*

**МІНСКІ ЦАРКОЎНЫ ГІСТОРЫКА-АРХЕАЛАГІЧНЫ КАМІТЭТ.**

установа, якая збірала і вывучала старажытнасці на тэр. Мінскай губ. Існавала з лютага 1908 да 1-й сусветнай вайны. Створаны Сінодам пры Мінскай епархіі. Старшыні: М. М. Былоў, А. К. Снітка (з 1909). Даследаваў гіст. помнікі, фальклор, апісваў помнікі старажытнасці, царк. і манастырскія архівы, збіраў і зберагаў старадаўнія рэчы, прапагандаваў гіст. веды. У 1909 выдаў зб. «Апісанне рукапіснага аддзела і старадрукаваных кніг бібліятэкі Мінскага царкоўнага гісторыка-археалагічнага камітэта» (дадатак да в. 1 «Мінскай даўніны»). Пры к-це існаваў *Мінскі царкоўна-археалагічны музей.*

*Л. Дз. Клок.*

**«МИНСКИЕ ГУБЕРНСКИЕ ВЕДОМОСТИ»**, афіцыйная газета, якая выдавалася Мінскім губ. праўленнем у 1838—1917. Выходзіла 1—2 разы на тыдзень на рус. мове. Мела афіцыйную (змяшчала інфармацыю па матэрыялах «Правительственного вестника» і мясц. улад) і неафіцыйную (выходзіла ў 1838—92 і 1911) часткі.

У неафіцыйнай частцы змяшчаліся гіст., археал. і этнаграфічныя звесткі, літаратурныя публікацыі, карэспандэнцыі з гарадоў і вёсак. Значнае месца займалі артыкулы, якія ў папулярнай форме знаёмілі чытача з вынікамі археал. даследаванняў, найб. важнымі старонкамі стараж. гісторыі роднага краю. Вял. ролю ў гэтым адыграў Р. Г. *Ігнацьеў* — рэдактар неафіцыйнай часткі ў 1877—80. У працы «Раскопкі курганоў у Заслаўі Мінскага павета» (1877. № 49—51; 1878. № 24—27) Ігнацьеў падвёў вынікі сваіх даследаванняў у Заслаўі, даў апісанне знойдзеных рэчаў. У шэрагу нумароў за 1878 і 1879 друкавалася археал. карта Мінскага пав. і тапаграфічныя прывязкі да яе, апісанне гарадзішчаў і курганоў, датаванне і вывады аб этнічнай прыналежнасці гэтых помнікаў. У арт. «Мястэчка Заслаўль ці Ізяслаў, горад нашчадкаў Рагнеды» (1878. № 1, 2) Ігнацьеў прыводзіць летапісныя звесткі пра заснаванне Заслаўя, падмацоўвае іх апісаннем замчышча, гарадзішча, курганнага некропаля. У арт. «Гістарычны нарыс мястэчка Турава, былой сталіцы Тураўскага княства» (1877. № 2—4) і «Тураў і Тураўшчына» (1877. № 4—9) у папулярнай форме дадзена гісторыя стараж. г. Турава, апісаны гарадзішча, курганныя могільнікі Тураўшчыны. У 1879 (№ 18—25, 38) газета змясціла падрабязнае апісанне археал. экспанатаў, прадстаўленых Мінскім стараж. к-там на Маскоўскую антрапалагічную выстаўку (1880). У арт. «Мінская хроніка» (1879. № 34, 40) змешчана характарыстыка скарбаў польскіх манет 17 ст., манет Рэчы Паспалітай, ВКЛ і шведскіх з Навагрудскага і Барысаўскага пав. У шэрагу нумароў за 1891—92 друкавалася праца Г. Х. Татура «Нарыс археалагічных помнікаў на прасторы Мінскай губерні», якая фактычна з'явілася першай археал. картай Мінскай губ., дзе змешчаны вядомыя на той час помнікі каменнага і бронзавага вякоў. Друкаваліся агляды археал. даследаванняў У. З. Завітневіча ў Рэчыцкім і Мазырскім пав. Вынікі яго археал. даследаванняў у Мінскай губ. падвёў М. В. Доўнар-Запольскі (1892. № 36), які падтрымаў вывад Завітневіча пра тое, што курганныя могільнікі пакінуты дрыгавічамі, паказаў межы іх расялення. Газета падтрымлівала сувязі з археолагамі краіны, садзейнічала арганізацыі *Мінскага царкоўнага гісторыка-археалагічнага камітэта* і музея пры ім.

*У. Дз. Будзько.*

**МІНТУРОВА**, гарадзішчы, паселішча, курганная група каля в. Мінтурова Полацкага р-на.

Гарадзішча-1. За 2 км на Пн ад вёскі, на правым беразе воз. Стаўпецкае. Мясц. назва Чорная гара. Даследаваў у 1965 і 1973 Г. В. Штыхаў, у 1988 Г. М. Семянчук. Пляцоўка авальная, памер 60×40 м. З Пн, З, ПнУ і ПдЗ умацавана валам выш. 3—4 м і ровам, з астатніх бакоў — балота. Культурны пласт ад 0,4 да 1 м. Знойдзены ляпная гладкасценная і штрыхаваная кераміка, жал. шпілька посахападобнай формы з навершам. Адносіцца да ранняга жал. веку.

Гарадзішча-2. За 200 м на Пн ад гарадзішча-1. Пляцоўка памерам 50×25—30 м. Захаваліся вал выш. да 3 м і роў шыр. 2—6 м. Культурны пласт не выяўлены, магчыма, гэта гарадзішча-сховішча.

Паселішча. На паўн. баку воз. Мінтурова. Памер 400×70 м. Сабрана кераміка 12—17 ст.

Курганная група. У цэнтры вёскі, каля сучасных могілак, на ўзгорку. Мясц. назвы Валатоўкі і Французскія магілы. У 1873 было 173 насыпы, захавалася каля 25, астатнія знішчаны ў 1960-я г. пры распрацоўцы кар'ера. Курганы ў плане круглыя, дыям. 5—12 м, выш. да 2 м. Адзін курган раскапаў Штыхаў у 1965, яшчэ адзін — Семянчук у 1988. Абодва насыпаны з жоўтага пяску, каля асновы попельна-вугальная праслойка. Першы курган пусты. У другім знойдзены 3 пахаванні па абраду трупапалажэння на мацерыку. Усе касцякі арыентаваны галавой на З; адзін быў у драўлянай труне. Знойдзена ганчарная кераміка, якая дае падставу датаваць могільнік 11—12 ст.

*Літ.*: 1046, 1340. *Г. М. Семянчук.*

**МІНЦМАЙСТАР** (ням. Münzmeister ад Münze манета + Meister майстар), службовая асоба на *манетным двары.* Назіраў за інструментам і рабочым персаналам, дзейнасцю рэзчыкаў штэмпеляў, кантраляваў разам з *мінцпрабірэрам* прывядзенне манетнага металу ў пэўную пробу, кантраляваў гатовую прадукцыю, вёў дакументацыю. Меў права набіваць свае ініцыялы на манетах, якія выпускаліся дваром (гл. ў арт. *Ініцыялы службовых асоб манетных двароў Вялікага княства Літоўскага, Ініцыялы службовых асоб манетных двароў Каралеўства Польшчы, Ініцыялы службовых асоб манетных двароў Расійскай дзяржавы* 1707—1917). На манетным двары магло быць некалькі М. У 18 — пач. 19 ст. пасада М. вядома на манетных дварах Расіі. З 19 ст. функцыі М. часткова перайшлі да начальніка механічнай вытворчасці, потым — да начальніка манетнай перапрацоўкі.

*Літ.:* 1524, 1525, 1527, 1714.

**МІНЦПРАБІРЭР** (ням. Münzprobirer ад Münze манета + probieren выпрабоўваць), службовая асоба на манетным двары. Кантраляваў якасць сыравіны (для выяўлення фальшывых манет), праводзіў кантрольную пробу пры плаўцы і кіраваў плаўкай манетнага металу для атрымання адпаведнай *пробы*, кантраляваў пробу і вагу гатовай прадукцыі *(рэмедыума).* Меў права набіваць свае ініцыялы на манетах, якія выпускаліся дваром (гл. ў арт. *Ініцыялы службовых асоб манетных двароў Вялікага княства Літоўскага, Ініцыялы службовых асоб манетных двароў Расійскай дзяржавы* 1707—1917).




«Палкавыя» знакі з **Мінчыцкага манетна-рэчавага скарбу.**

**МІНЧЫЦКІ МАНЕТНА-РЭЧАВЫ СКАРБ.** Знойдзены каля в. Мінчыкі Бераставіцкага р-на ў 1989. Складаўся з набораў сярэбранага стало-

вага посуду і прыбораў рознай камплектнасці, бронзавай булавы, 2 імянных кубкаў польскага пісьменніка, гісторыка Ю. У. Нямцэвіча, трох т. зв. «палкавых» знакаў 1920—30-х г., каля 20 манет Рэчы Паспалітай і Вялікабрытаніі 1920-х г.

Сталовы посуд і прыборы 19 — пач. 20 ст. маюць гербы: княжацкі — выява св. Георгія (чацвяртня, тры варыянты) і шляхецкі герб «Неўлін». Адзін кубак бронзавы цыліндрычны, залачоны ўсярэдзіне, з рэльефнымі выявамі на евангельскія сюжэты цыкла «Раства Хрыстова» на корпусе, з фігурнай ручкай і адкіднай накрыўкай (1700—05, работа М. Якаба). Другі кубак сярэбраны, бочачкападобны (таўшч. 6, выш. 132, дыям. донца 96 мм) 1-й трэці 19 ст. з манетнымі ўстаўкамі на корпусе, 16 устаўкамі з гранату, бірузы, сердаліку і каляровага шкла пад бірузу на ручцы (магчыма, 18 ст.), у верхняй яе частцы замацаваны аметыст, які традыцыйна лічыўся сродкам ад ап'янення. Манеты і медалі на корпусе кубка размешчаны ў тры гарызантальныя рады. У сярэднім радзе цэнтр кампазіцыі — авальны жэтон каля 1633 Уладзіслава IV (выш. 45 мм, работа А. Абонда), злева ад яго — каронны *талер* каля 1620-х г. (42 мм) Зыгмунта III Вазы, медаль у гонар Яна Сабескага (40 мм, работа Я. Рэгульскага, 1788), каронны орт 1684 Яна Сабескага (27—28 мм), справа — тарунскі талер, магчыма, 1638 (43 мм) Уладзіслава IV, медаль Р. Ляшчынскага (40 мм, работа І. Энгельгарда), *грош пражскі* (27—28 мм) Яна І Ольбрахта. Манеты і медалі (дыям. 24—32 мм, устаўкі большага дыяметра размешчаны бліжэй да цэнтра) верхняга рада — насупраць уставак ніжняга рада і паміж уставак сярэдняга: злева направа ад ручкі — каронны орт 1655 Яна II Казіміра, гданьскі орт 1625 Зыгмунта III, медаль 1764 у гонар каранацыі Станіслава Аўгуста Панятоўскага (медальер Я. Хольцхаўсер), *тынф* 1633 Яна II Казіміра, жэтон 1676 у гонар каранацыі Яна Сабескага (на рэверсе ініцыялы ўладальніка ХМ), чатырохграшовік 1568 Жыгімонта II Аўгуста. Ніжні рад складаецца з дробных манет і жэтона (дыям. 20—24 мм): літоўскі траяк 1585 Стэфана Баторыя, трохграшовік 1590 у гонар каранацыі Зыгмунта III Вазы, прускі грош 1534 Жыгімонта І Старога, жэтон 1734 у гонар каранацыі Аўгуста III Фрыдрыха, літоўскі траяк 1584 Стэфана Баторыя, паўтарак 1720-х г. Зыгмунта III Вазы. На накрыўцы кубка сярэбраны медаль 1646 (дыям. 48 мм) на шлюб Уладзіслава IV і Людавікі Марыі дэ Ганзага (работа С. Дадлера). Латунная булава (даўж. больш за 50 см; цынку больш за 10 %) 2-й пал. 18 ст. ўсярэдзіне заліта арганічнай масай з дабаўкай традыцыйнага набору мінералаўтвараючых элементаў. Двухколеннае дзяржанне аздоблена чаканкай: на першым калене арнамент з лілеяй (сімвал улады), на другім — партрэтныя выявы ў тры радкі. Усё дзяржанне на спіралі апяразвае геам. арнамент, выкананы серабрэннем. Наверша булавы літае са сферычнымі сегментамі з чаканенымі партрэтамі. Скарб ухаваны ў 1935. *С. П. Палхоўская, І. І. Сінчук.*

**МІР,** гарадскі пасёлак у Карэліцкім р-не, на р. Міранка. За 26 км ад Карэліч, 17 км ад чыг. ст. Гарадзея на лініі Мінск — Баранавічы, на аўтадарозе Навагрудак — Мінск.

На тэр. пасёлка археал. раскопкі праводзіў у 1982—84 і 1988—89 А. К. Краўцэвіч. Даследавана 345 $м^2$ пл. Выяўлены культурны пласт часоў сярэднявечча магутнасцю 1—3,5 м. Складаецца з трох асн. напластаванняў: найстаражытнейшае (канец 14—16 ст.) магутнасцю 0,4—0,9 м, пласт 16—17 ст. магутнасцю 0,2—1 м, пласт 17—20 ст. магутнасцю 0,6—1,5 м, са шматлікімі праслойкамі гліны, пяску, бітай цэглы. Найб. магутны пласт у цэнтры пасёлка, вакол плошчы. Прасочаны таксама культурны пласт на ўчастках шыр. 15—20 м, якія прылягаюць да вуліц (тут размяшчаліся двары, жылыя і гасп. пабудовы). У глыбіні сядзіб, дзе былі агароды, культурны пласт амаль адсутнічае.



Сярэбраны бочачкападобны кубак з Мінчыцкага манетна-рэчавага скарбу.

У ліку знаходак: керамічны посуд (гаршкі, міскі, талеркі, збаны, рынкі, латкі, макотры, біклагі, глякі, чаркі), кафля (гаршковая 15—16 ст. і каробчатая з раслінным, геаметрычным, заамарфным і геральдычным арнаментам, у т. л. спецыфічным — выява радзівілаўскага арла і мясц. варыянт выявы міфічных жывёл), шкляны посуд (шкляніцы, бутэлькі, бутлікі, кварты, келіхі, чаркі, стопкі), аконнае шкло 17—18 ст., дахоўка, падсвечнікі, люлькі, цвікі, сякеры, скабянка, падковы, вырабы з косці і каменю, 2 манетныя скарбы 17 ст. (93 медныя соліды Яна II Казіміра і 4 білонныя манеты — 2 талеры антверпенскай чаканкі і 2 шасціграшовікі Рэчы Паспалітай і прускі).

У цэнтры пасёлка каля плошчы выяўлены рэшткі вял. муpainted будынка 17 ст., магчыма, ратушы. На паўд. ускраіне адкапаны падмурак будынка з ніжняй часткай кафлянай печы 2-й пал. 17 ст., побач — напаўразбураны горан 18 ст. Даследаванні сведчаць, што ў 17 ст. асноўная тэр. паселішча размяшчалася ў прамавугольніку, абмежаваным сучаснымі вуліцамі Танкістаў, Ленінградскай, завулкам Першамайскім, р. Міранка.

У пісьмовых крыніцах М. упершыню ўпамінаецца ў 1395 у сувязі з нападам крыжакоў. 10.6.1434 вял. кн. Жыгімонт Кейстутавіч падараваў М. віленскаму кашталяну Сенку Гедыголдавічу, які перадаў яго сваёй прыёмнай дачцэ Ганне Бутрымаўне, тая — сваёй цётцы, а апошняя пакінула ў спадчыну брату Юрыю Ільінічу. З 1486 ці 1490 М.— уладанне роду Ільінічаў. Да канца 15 ст. горад быў абнесены лініяй умацаванняў. У 16 ст. яго насельніцтва складалася з баяр і «людзей мірскіх», горадам кіраваў «урраднік мірскі», пастаўлены ўладальнікам. У канцы 15 — пач. 16 ст. Юрый Ільініч збудаваў на ўсх. ускраіне пяцівежавы *Мірскі замак*. З 1555 — цэнтр Мірскага графства. З 1568 ці 1569 М.— уладанне Радзівілаў, з 1589 у складзе Нясвіжскай ардынацыі. У сярэдзіне 16 ст. складаўся са Старога і Новага (за Слонімскай і Мінскай брамамі) местаў. У 1-й пал. 17 ст. ў М. 477 двароў. З 1579 карыстаўся няпоўным магдэбургскім правам. У 1533—50 збудавана Траецкая царква, у 1587— драўляны касцёл (з 1605 мураваны). Існавалі мураваная ратуша і шпіталь. У канцы 16 — пач. 17 ст. вакол горада ўзведзены новыя ўмацаванні: земляны вал са сцяной і роў. Меліся 4 мураваныя брамы: Віленская, Мінская, Нясвіжская, Слонімская. У 17 ст. М. стаў буйным цэнтрам рамяства і гандлю. У архіўных матэрыялах 1600—20 згадваюцца 18 рамесных спецыяльнасцей, у т. л. па апрацоўцы металу, вырабу зброі, гарбары, кушняры, ткачы, ганчары і інш. У 1620-я г. горад перажыў мор, у памяць аб яго ахвярах на рыначнай плошчы збудавана капліца. У час рус.-польскай вайны 1654—67 часткова спалены, у верасні 1655 узяты рус. войскамі, потым шведамі. У 1667 у горадзе 295 двароў. Пасля вайны адноўлены: у 2-й пал. 17 ст. 478 двароў, 49 рамесных спецыяльнасцей, у т. л. звязаных з абслугай замка: кафляры, шпалернікі, механікі і інш. Цэнтрам горада была плошча, да якой вялі гал. вуліцы: Віленская, Слонімская, Мінская. У 1705 пры Траецкай царкве заснаваны базыльянскі кляштар. У час Паўночнай вайны 1700—21 горад і замак захоплены шведамі (1706), прадмесці спалены. У 1-й пал. 18 ст. ў горадзе 364 двары, 57 рамесных спецыяльнасцей. У 2-й пал. 18 ст. ў М. пасяліліся цыганы, тут была рэзідэнцыя цыганскага старшыні (караля) ВКЛ, якому Караль Радзівіл (Пане Каханку) даў у 1787 прывілей на вядзенне цыганскіх спраў і суд над імі. У канцы 18 ст. ў горадзе 418 двароў. Паводле 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) М. уключаны ў склад Расійскай імперыі.

*Літ.*: 597. *А. К. Краўцэвіч.*

**МІРАЛЮБАЎ** Баян Васілевіч [28.10(10.11).1908, ст. Ахтырка Тамбоўскай губ.—30.11.1989], беларускі археолаг і краязнавец. Скончыў гімназію ў Пінску і 3 курсы Варшаўскага ун-та. У 1939—49 на прафсаюзнай і сав. рабоце ў Пінску; з 1949 інспектар па ахове помнікаў культуры. У 1954—78 у Пінскім краязнаўчым музеі: навук. супрацоўнік, дырэктар. У 1954—64 удзельнічаў у археал. раскопках могільнікаў, селішчаў, гарадзішчаў на Піншчыне, кіраваў раскопкамі дзядзінца і вакольнага горада Пінска.

*Тв.*: Пинск: Ист.-экон. очерк. Мн., 1977 (разам з А. П. Дунцом).

**МІРСКІ ЗÁМАК,** помнік архітэктуры 16—18 ст. Пабудаваны ў пач. 16 ст. ў г. п. Мір Карэліцкага р-на магнацкім родам Ільінічаў; пазней належаў Радзівілам, Вітгенштэйнам, Святаполк-Мірскім. Замак у плане блізкі да квадрата са стараной каля 75 м, па вуглах мае пяціпавярховыя вежы выш. 25—27 м, якія выходзяць за межы сцен. Пятая вежа — шасціпавярховая з уязной брамай, перад якой былі пад'ёмны мост і герса (каваныя краты, дадаткова зачынялі браму, нечакана апускаліся перад ворагам, які наступаў),— знаходзілася пасярэдзіне зах. сцяны. Усе вежы маюць аднолькавыя абрысы (да $^1/_2$—$^1/_3$ вышыні — чатырохграннае сячэнне, вышэй — васьміграннае), прарэзаны 2 радамі байніц і амбразурамі для вядзення агню з ручной агнястрэльнай зброі і гармат. Архітэктурная апрацоўка фасадаў кожнай вежы грунтуецца на розных па форме і велічыні дэкаратыўных нішах і арнаментальных паясах. Арнаментальна аздоблены і замкавыя муры. Па ўсім перыметры замка праходзіць цагляны дэкаратыўны пояс. Некаторыя цагліны маюць клеймы цагельнікаў. Атынкаваныя ў бела-ружовы колер нішы, цягі, паясы вежаў і сцен прыгожа спалучаліся з цёмна-чырвонай фактурай цаглянай паверхні сцен, ствараючы цэласную архіт. кампазіцыю. У пластычным афармленні замка выкарыстаны простыя, але характэрныя для бел. готыкі выяўленчыя сродкі: гатычная муроўка (чаргаванне тычка і лажка) з умураванымі камянямі і выкарыстаннем клінкернай цэглы, падзел сцен разнастайнымі па форме атынкаванымі нішамі, арнаментальныя цагляныя паясы. Замак быў абкружаны землянымі валамі выш. каля 10 м і ровам з вадою. У сярэдзіне 16 ст. ў двары да паўд. і ўсх. сцен быў прыбудаваны аднапавярховы палац з скляпеністымі памяшканнямі і сутарэннямі, да 1616 да яго прыбудаваны яшчэ 2 паверхі. Палац меў каля 40 пакояў, аздобленых лепкай. З 1969 знаходзіцца ў стадыі кансервацыі і рэстаўрацыі.

Археал. даследаванні замка праводзілі ў 1912 Ю. Ядкоўскі, у 1972 М. А. Ткачоў, у 1980—84, 1989—91 А. А. Трусаў (у 1982 разам з І. М. Чарняўскім). У час раскопак 1972 вывучаны рэшткі мураванага ўмацавання канца 16 — пач. 17 ст., якое знаходзілася перад галоўнай брамай. У плане — падковападобная цагляная сцяна таўшч. 1,25 м. У выніку далейшых раскопак ускрыта каля 4000 $м^2$ пл. Культурны пласт таўшч. ад 0,2—0,3 каля валоў да 1,8 м каля замкавых муроў і ў паўдн.-зах. частцы двара. Высветлена, што на месцы мураванага замка ў 2-й пал. 15 ст. існавала паселішча, якое знішчана ў выніку пажару, пра што сведчыць вугальная праслойка. Знойдзены развал глінабітнай печы, складзенай з гаршковай кафлі, шмат непаліванай керамікі 15 — пач. 16 ст. На месцы паселішча ў пач. 16 ст. будаўнікі зрабілі насып з пяску і гліны таўшч. ад 0,2 да 1 м і на ім збудавалі замак, падмуркі якога заглыблены на 4—5 м. Земляныя валы і бастыёны вакол замка былі насыпаны ў больш позні часы з гліны, пяску і культурнага пласта 16 ст. У 1981—84 адкрыты падмуркі і рэшткі сцен аднапавярховых прыбудоў канца 16 — пач. 17 ст. каля паўд. і зах. замкавых муроў. На Пн ад замка прасочаны рэшткі цагляных слупоў 17 ст., размешчаных парамі, якія былі апорамі для мастка, што вёў з парадных дзвярэй 2-га паверха паўд. корпуса ў парк, што размяшчаўся за валамі бастыёнаў. На З ад замка выяўлены развал печы, у якой у 16 ст. абпальвалі цэглу.

Знойдзены керамічныя люлькі, гаршкі, макотры, міскі, талеркі, рынкі, збаны, кубкі, буйнапамерная цэгла, дахоўка (з дэкаратыўным шыпам, у т. л. і зялёнапаліваная, плоская і хвалістая), шкляныя кварты, пляшкі, келіхі, чаркі, металічныя нажы, падковы, спражкі, шпоры, відэльцы, ключы, замкі, манеты, гарматныя ядры, вял. колькасць кафлі (тэракотавая, зялёная паліваная, паліхромная, а таксама сцянная, вуглавая, гзымсавая, паясковая, кафля-дахоўка, кафля-медальён і інш.). Знаходкі маюць вял. значэнне пры распрацоўцы праекта рэстаўрацыі замка.

*Літ.*: 1201, 1227, 1280. *А. А. Трусаў.*



**Мірскі замак** у пачатку 17 ст. Рэканструкцыя М. А. Ткачова. Мастак Я. Кулік.



Кафля канца 16 ст. з **Мірскага замка.**



Кафля канца 16—1-й пал. 17 ст. з **Мірскага замка.**

**МІРЧЫНК** Георгій Фёдаравіч [13 (25).4.1889, Масква — 10.4.1942], рускі геолаг. Акадэмік АН БССР (1940), праф. (1918). Скончыў Маскоўскі ун-т (1912). Прафесар маскоўскіх ун-та, горнай акадэміі (1918—30), геолагаразведачнага ін-та (з 1930). Заснавальнік навук. школы геолагаў-чацвярцічнікаў і ініцыятар комплекснага вывучэння праблем чацвярцічнай геалогіі. Першы з сав. геолагаў стаў вывучаць умовы залягання культурных пластоў палеалітычных паселішчаў і стаянак. У 1923 склаў першую карту чацвярцічных адкладаў Еўрап. часткі СССР. Па матэрыялах, сабраных у *Бердыжы* ў 1927—28, абазначыў размяшчэнне культурных рэштак паселішча на схіле стараж. яра. Удакладніў геалагічны ўзрост помніка — прамежак часу паміж адкладамі пяскоў 1-й надпоймавай тэрасы і размывам марэны з утварэннем яра, на схіле якога пасяліўся першабытны чалавек. Пасля больш

позніх даследаванняў Бердыж аднесены да арыньякскіх стаянак. Паводле М., палеалітычная стаянка *Юравічы* паводле характару геалагічных утварэнняў блізкая да Бердыжа. Вызначыў, што «палеалітычныя людзі» сяліліся на 2-й надпоймавай тэрасе (Супонева, Ціманаўка, Юравічы), на схіле яра з алювіяльных адкладаў (Бердыж) ці на схіле даліны ракі (Боршава, Гагарына). Работы М. сталі асновай для далейшых даследаванняў геалогіі верхняга



Г. Ф. Мірчынк.

(позняга) палеаліту, увязалі іх з гісторыяй выкапнёвага чалавека.

*Тв.*: О соотношении речных террас и стоянок палеолитического человека в бассейне рр. Десны и Сожа // Бюллетень Московского о-ва испытателей природы. Отд. геолог. М., 1929. Вып. 1—2; Геалагічныя ўмовы знаходжання палеалітычнай стаянкі каля в. Бердыж на р. Сажы (Гомельшчына) // Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларус. Акад. навук. 1930. Кн. 11. Працы археалагічнай камісіі, т. 2; Геологическое строение местности по линиям Орша — Ворожба, Новобелица — Прилуки и Локоть — Шостка. М. и др., 1933 (Труды Всесоюз. геолого-разведочного объединения НКТП СССР; Вып. 309); Геологические условия нахождения палеолитических стоянок в СССР и их значение для восстановления четвертичной истории // Труды II Междунар. конф. ассоциации по изучению четвертичного периода Европы. М. и др., 1934. Вып. 5.

*Літ.*: 189, 230. *У. Дз. Будзько.*

**МІСКА,** від сталовага посуду. Найб. старажытны міскападобны посуд выраблялі з дрэва. З ранняга сярэднявечча вядомы керамічныя М. непаліваныя, паліваныя, дымленыя, цыліндрычнай, піялападобнай ці ўсечана-канічнай формы. Паліваныя М. 16—17 ст. выяўлены ў *Мірскім замку*. Яны мелі нешырокі (1,5—2,5 см) адагнуты вонкі борцік, былі арнаментаваны карбоўкай, пракрэсленымі лініямі. Паліваныя М. з Магілёва арнаментаваны знутры па донцы рыфленымі канцэнтрычнымі кругамі, часам з упісанай паміж імі кветкай (канец 17—1-я пал. 18 ст.). З 18 ст. шырока ўжываліся М. з вертыкальным борцікам (паліваныя, размаляваныя ангобам пад паліву, палітыя эмаллю з размалёўкай, дымленыя з глянцаваным арнаментам) і піялападобнай формы. *Н. І. Здановіч.*

**МІСЮ́РКА,** разнавіднасць адкрытага шлема. Складалася з міскападобнага паўсферычнага металічнага наверша, якое засцерагала верхнюю частку галавы, і прымацаванага да яго кальчужнага палатна. Засланяла шыю і вушы воіна ад удараў. М. паявілася на У у 1-м тысячагоддзі н. э., у Еўропе вядома з 10 ст. На Беларусі выкарыстоўвалася ў 15—17 ст. у якасці баявога аглаўя коннікаў, т. зв. «панцэрных». *М. А. Ткачоў.*

**МІТРАФА́НАЎ** Аляксей Рыгоравіч [5(18).10.1912, в. Асташкава Цвярской губ. (цяпер Таржоцкі р-н Цвярской вобл.) — 18.4.1988], беларускі археолаг. Канд. гіст. навук (1956). Скончыў гіст. ф-т Ленінградскага ін-та гісторыі, філасофіі, літаратуры і лінгвістыкі (1936). Працаваў настаўнікам гісторыі, на кафедры археалогіі ў Ленінградскім ун-це. Удзельнік Вял. Айчыннай вайны. У 1950—82 працаваў у Ін-це гісторыі АН БССР, выкладаў у БДУ. Навук. дзейнасць у асноўным прысвечана вывучэнню жал. веку на тэр. цэнтральнай Беларусі. З 1950-х г. даследаваў гарадзішчы Міншчыны (*Малышкі, Навасёлкі, Вязынка, Лабеншчына, Збаравічы* і інш.), сістэматызаваў і класіфікаваў старажытнасці *штрыхаванай керамікі культуры*, унёс значны ўклад у распрацоўку канкрэтна-гіст. ўяўлення пра характэрныя асаблівасці матэрыяльнай культуры, грамадскі лад, гасп. дзейнасць, паходжанне і этнічную прыналежнасць плямён гэтай культуры, сцвярджаў іх балтамоўны характар. Вывучэнне гарадзішчаў ранняга жал. веку паўн. Беларусі і ідэнтыфікацыя іх са старажытнасцямі Смаленшчыны прывялі М. да высновы аб адзіным этнакультурным масіве, названым ім *днепрадзвінскай культурай*. Вывучаў старажытнасці 3-й чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э., т. зв. *банцараўскай культуры*. У 1960-я г. выявіў у паўн.-зах. рэгіёне дняпроўскага басейна і ў Панямонні некалькі дзесяткаў адкрытых паселішчаў гэтай культуры 5—8 ст. н. э. і даследаваў некаторыя з іх (Гарадзішча, Гуры, Дзядзілавічы, Равячка). Аналіз сацыяльна-эканам. развіцця банцараўскага насельніцтва, пытанняў яго этнічнай інтэрпрэтацыі і арэала пашырэння прывялі яго да высновы, што тэр. сярэдняй і паўн. Беларусі разам са Смаленшчынай складаюць адзіны культурна-археал. масіў (банцараўска-тушамлінская культура), які належаў усходнебалцкай супольнасці. Навук. каштоўнасць маюць вывучаныя ім жытлы наземнага і паўзямлянкавага тыпаў. Канструкцыйныя асаблівасці наземных жытлаў, на яго думку, мелі мясц. паходжанне, а паўзямлянкі звязаны з уплывам паўд. помнікаў тыпу Абідні і *Тайманава* (культура кіеўскага тыпу). Адзін з аўтараў «Нарысаў па археалогіі Беларусі» (ч. 1, 1970), «Гісторыі Беларускай ССР» (т. 1, 1972).



А. Р. Мітрафанаў.

*Тв.*: Городище в Вязынке // Материалы по археологии БССР. Мн., 1957. Т. 1; Новые данные о памятниках VI — VIII вв. средней и северной Белоруссии // Древности Белоруссии. Мн., 1966; Археология Белоруссии за советский период (разам з У. Дз. Будзько) // Сов. археология. 1967. № 4; Банцеровское городище // Белорусские древности. Мн., 1967; Территория распространения и проблема происхождения культуры штрихованной керамики // Тезисы докладов к конференции по археологии Белоруссии. Мн., 1969; О происхождении культуры типа верхнего слоя Банцеровщины (V — VIII вв.) // Беларускія старажытнасці: Матэрыялы канф. па археалогіі БССР і сумежных тэрыторый. Мн., 1972; Железный век Средней Белоруссии (VII — VI вв. до н. э.— VIII в. н. э.). Мн., 1978; Археологические памятники восточных балтов на территории Белоруссии в эпоху железа (VIII в. до н. э.— IX в. н. э.) // Из древнейшей истории балтских народов: (по данным археологии и антропологии). Рига, 1980. *В. І. Шадыра.*

**МІХА́ЙЛАЎКА,** стаянка эпохі мезаліту, каля в. Міхайлаўка Светлагорскага р-на. Размешчана за 250 м на ПдУ ад вёскі, на мысе 2-й надпоймавай тэрасы правага берага р. Бярэзіна. Выявіў і даследаваў у 1977 200 м² У. П. Ксяндзоў. Культурны пласт 0,25—0,35 м.

Знойдзены вырабы з «сожскага» крэйдавага крэменю: постсвідэрскія і сіметрычныя наканечнікі стрэл, канцавыя

скрабкі, разцы, ланцэтападобныя вастрыі, праколкі, скоблі, пласціны-ўкладышы, трапецыі, долатападобныя прылады, нуклеусы, рэтушоры, рэтушаваныя адшчэпы і пласціны.

Адносіцца да днепра-дзяснінскай культуры.

*Літ.*; 619, 621. *У. П. Ксяндзоў.*

**МІЦУРЫ,** курганныя могільнікі каля в. Міцуры Петрыкаўскага р-на.

Курганны могільнік-1. За 1,5 км ад вёскі, на правым беразе р. Бобрык. 15 курганоў. У 1889 У. З. Завітневіч даследаваў 10 курганоў. У 2 з іх пахаванне па абраду трупапалажэння ў ямах глыб. 0,2 м, у астатніх — трупапалажэнне на гарызонце, зрэдку ў сядзячым становішчы. Знойдзены бронзавыя кольцы, шкляныя і паставыя пацеркі, гаршкі. Могільнік не існуе.

Курганны могільнік-2. За 1 км ад вёскі, на левым беразе р. Бобрык, ва ўрочышчы Высокая Магіла. 15 насыпаў дыям. 4,7—10 м, выш. 0,5—1,4 м. У 1889 Завітневіч даследаваў 9 курганоў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на мацерыку галавой на З, у 2 курганах — у магільнай яме. У 4 выпадках нябожчыкі знаходзіліся ў сядзячым становішчы, у 2 — у драўляных дамавінах, 2 насыпы пустыя. Большасць пахаванняў без інвентару. Знойдзены шкляныя пацеркі, фрагменты ганчарнага керамічнага посуду. Датуецца 10—12 ст. Могільнік не існуе.

Курганны могільнік-3. За 2 км ад вёскі, на беразе возера, ва ўрочышчы Зялёнка. 2 насыпы. У 1889 даследаваў Завітневіч. Пахавальны абрад — трупапалажэнне. У адным кургане дзіцячае пахаванне і 8 дзіцячых чарапоў, у другім 2 дзіцячыя чарапы. Знойдзены ляпны гаршчок, керамічныя шарыкі і прадметы, якія па форме нагадвалі косці для гульні. На думку Завітневіча, могільнік узнік у час эпідэміі. Датуецца 10—12 ст. Могільнік не існуе.

*Літ.*: 380, 994.

*Ю. А. Заяц, Г. В. Штыхаў.*

**«МОГИЛЁВСКИЕ ГУБЕРНСКИЕ ВЕДОМОСТИ»,** афіцыйная газета. Выдавалася Магілёўскім губ. праўленнем у 1838—1917 на рус. мове. Мела 2 часткі — афіцыйную і неафіцыйную (з 14.7.1839), якая з 1.7.1904 да 1905 выходзіла як самаст. грамадская і літаратурная газета. Да 1849 выходзіла нерэгулярна, да 1858, у 1864—69 і з 1916 — штотыднёва, у 1859—63, 1870—1903 і з 1906 — два, а ў 1904—05— тры разы на тыдзень.

У афіцыйнай частцы друкаваліся дакументы і распараджэнні ўрадавай і губ. адміністрацыі, аб'явы, у неафіцыйнай — гіст., археал., этнаграфічныя звесткі. Найбольш грунтоўнымі былі публікацыі ў 1897—1903, калі рэдактарам неафіцыйнай часткі быў бел. археолаг і этнограф Е. Р. *Раманаў.* У сваім артыкуле «Да пытання пра час утварэння Магілёва» (1897, № 93, 99, 102, 105) на падставе даследаванняў магілёўскіх гарадзішчаў Раманаў робіць вывад пра тое, што ўжо ў каменным веку на месцы Магілёва былі паселішчы. У 1898 (№ 15, 16, 21, 22, 35) надрукавана праца Раманава (пад псеўданімам Е. Радзіміч) «Што зроблена па вывучэнню Магілёўскай губерніі і што яшчэ неабходна зрабіць», у якой прааналізаваны археал. даследаванні на Магілёўшчыне, пастаўлены задачы на будучае. Газета змяшчала артыкулы пра даследаванні курганных могільнікаў, гарадзішчаў *Лукомль, Юркавічы, Новы Быхаў*, каля в. Радамля, Аляксандраўка, Чырчына і інш. Падрабязнае апісанне пахавальнага абраду і рэчаў, знойдзеных А. С. Уваравым пры даследаванні курганоў у маёнтку *Вотня*, пададзена ў арт. Я. Галавацкага (1880, № 95); зроблены вывад пра тое, што пахаванні належалі радзімічам. Надрукаваны справаздачы М. В. Фурсава і С. Ю. Чалоўскага пра даследаванні курганных могільнікаў у 5 паветах Магілёўскай губ. (1892, № 91—92), звесткі пра знаходкі манетных скарбаў у *Горах* і Стражавічах (гл. *Стражавіцкія манетна-рэчавыя скарбы*, 1898, № 38), каля Лукомля (1903, № 44). У рабоце С. Сакалова «Дарога з Магілёва цераз Стары і Новы Быхаў да Гомеля» (1850, № 49, 1851, № 2, 3, 5, 6, 9, 12, 17) падрабязна апісаны курганныя могільнікі і знаходкі манетных скарбаў у Гомелі. У шэрагу нумароў за 1899—1900 друкаваліся артыкулы з апісаннем кладаў польскіх, зах.-еўрап. і рус. манет 17—18 ст., знойдзеных на Магілёўшчыне. Падрабязна апісаны помнікі побыту, манетныя скарбы, знойдзеныя ў Магілёве, у арт. «З Магілёўскай даўніны» (1902, № 70). Навукова-папулярныя публікацыі, артыкулы пра краязнаўчы рух і музейную справу выхоўвалі пашану да стараж. гісторыі краю, аб'ядноўвалі вакол газеты значныя сілы краязнаўцаў, спрыялі стварэнню *Магілёўскага царкоўна-археалагічнага музея*, гісторыка-этнаграфічнага музея. Шэраг артыкулаў па археалогіі, гісторыі і этнаграфіі, змешчаных у «М. г. в.», надрукаваны ў зб. *«Магілёўская даўніна».* *У. Дз. Будзько.*




**Скроневыя кольцы (1—7) і пацеркі (8—16) з курганнага могільніка Мольнічы.**

**МОГІЛЬНІК,** група стараж. пахаванняў у адным месцы. М., адасобленыя ад паселішчаў, з'явіліся ў мезаліце. Падзяляюцца на курганныя (гл. *Курган*) і бескурганныя, або грунтавыя без насыпаў. Паводле *пахавальнага абраду* ў М. адрозніваюць трупаспаленні і трупапалажэнні. Часам у магілах трапляюцца рэчы, якія дапаўняюць уяўленне аб матэрыяльнай культуры розных плямён. Даследаванне М. дае каштоўны матэрыял для вызначэння арэала этнічных груп, археал. культур, хранало̄гіі, палеантрапалогіі, сямейных і сацыяльных адносін. На Беларусі самыя старажытныя М. адносяцца да бронзавага веку *(Ходасавічы, Рудня-Шлягіна)*, найб. даследаваны бескурганны могільнік ранняга жал. веку *Чаплін*, курганныя М. часоў Полацкай дзяржавы *Ізбішча* і *Заслаўе.* Антычны М. звычайна называюць некропалем, хрысціянскі і мусульманскі — могілкамі.

*Літ.*: 847, 848. *Г. В. Штыхаў.*

**МОЛАТ,** асноўны інструмент каваля. Да з'яўлення металаў у якасці М. выкарыстоўваўся камень цвёрдай пароды, прывязаны да палкі. З часоў авалодання тэхнікай свідравання ў каменным бруску выраблялі адтуліну для драўлянай ручкі.

З развіццём металургіі М. адлівалі з медных сплаваў, потым з жалеза. У залежнасці ад прызначэння ён меў розную вагу, памеры і форму. Вялікі (двухручны) М., якім працаваў малатабоец, важыў ад 3 да 10 кг, даўж. ручкі 50—90 см. Сярэдні (аднаручны) М., якім каваль паказваў памочніку-малатабойцу месца для ўдару, важыў 1—3 кг, даўж. ручкі 25—45 см. Малы М. (малаток) для кляпання і працы з дробнымі тонкімі кавалкамі металу меў вагу 0,5—1 кг і даўж. ручкі 15—25 см. На Беларусі аднаручныя М. 12 ст. знойдзены ў стараж. Бярэсці і інш. гарадах.

*Літ.*: 554, 702, 814, 1474.

*Г. М. Сагановіч.*

**МОЛЬНІЧЫ,** курганны могільнік дрыгавічоў каля в. Мольнічы Навагрудскага р-на. На зах. ускраіне вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Валоўка. Выявіла і даследавала ў 1956 Ф. Д. Гурэвіч. 19 курганоў дыям. 5—10 м, вакол якіх месцамі прасочваліся раўкі, адзін курган дыям. 17 м, выш. каля 4 м. У 1971 К. В. Паўлава раскапала 8 курганоў дыям. 5—7 м, выш. 0,6—1 м. Захаваўся курган дыям. 17 м.

У 7 курганах выяўлены пахаванні па абраду трупапалажэння ў аснове насыпаў, у адным пахаванне не выяўлена. Нябожчыкі ляжалі на спіне галовамі на ПдЗ (6 выпадкаў) або на ПнЗ (1 выпадак). У трох курганах над нябожчыкамі выяўлена падсыпка з пяску, у трох — падсыпка з попелу. У 4 курганах праслойкі з попелу і вугалля былі ў насыпах. Гэта, відавочна, рэшткі памінальных вогнішчаў. Выяўлены рэшткі складзенай з бярвён дамавіны памерам 2,8×1 м, выш. каля 0,6 м. Пахавальны інвентар прадстаўлены толькі жаночымі ўпрыгожаннямі (сярэбраныя і алавяныя

скроневыя кольцы, сярэбраны пярсцёнак, шкляныя, хрусталёвыя і сердалікавыя пацеркі, абломак сярэбранай зярнёнай пацеркі).

*Літ.*: 852. *Я. Г. Звяруга.*

**МОНАМЕТАЛІ́ЗМ** (ад грэч. mónes адзін, адзіны + лац. metallum метал), выкарыстанне ў *грашовай сістэме* аднаго металу (золата або серабра) у адрозненне ад *біметалізму* ў якасці маштабу цэн. Грашовыя знакі і манеты разменьваюцца на афіцыйна прыняты грашовы метал і забяспечваюцца яго запасамі.

У 19 ст. ў большасці краін вядомы сярэбраны М. (у Расіі ў 1843—52), з канца 19 ст. адбыўся ўсеагульны пераход да залатога М., адначасова адбывалася памяншэнне долі залатых манет у грашовай масе за кошт папяровых грашовых знакаў (гл. ў арт. *Банкнота*), якія ў сярэдзіне 19 ст. ў Еўропе складалі 50 %, у 1913—10 % ад усёй грашовай масы. У час 1-й сусветнай вайны размен банкнотаў на золата спынены, а пасля яе залаты М. існаваў у выглядзе залатазліткавага стандарту (Вялікабрытанія, Францыя), калі вялікая сума банкнотаў адпавядала кошту злітка (у Вялікабрытаніі 1 злітак = 1700 фунтаў стэрлінгаў), і золатадэвізнага стандарту (Германія, Аўстрыя, Данія), калі нац. банкноты абменьваліся на плацежныя сродкі ў замежнай валюце золатазліткавага стандарту. Пасля сусветнага эканам. крызісу 1929—33 у перыяд дэпрэсіі адбыўся пераход да абарачэння неразменных крэдытных грошай і рэзка паменшылася доля наяўнага грашовага абарачэння. Фіксаванае законам залатое ўтрыманне валюты паступова страціла практычнае значэнне з адмовай ад разліку паміж дзяржавамі ў золаце. З часу Ямайскага пагаднення 1976 Міжнар. валютны фонд перастаў фіксаваць залатое ўтрыманне валют.

*І. І. Сінчук.*

**МО́НЕЎКА,** стаянка каменнага веку каля в. Монеўка Бялыніцкага р-на. За 700 м на Пн ад вёскі, на першай надпоймавай тэрасе правага берага р. Друць. Памер 30×90 м. Выявіў у 1980, даследаваў у 1980, 1985 В. Ф. Капыцін. Культурны пласт 0,1—0,2 м. Знойдзены крамянёвыя вастрыі, нажы, адшчэпы, пласціны, абломкі нуклеусаў. Па ўсёй пляцоўцы траплялiся фрагменты гладкасценнай неарнаментаванай керамікі, венчыкі якой уплошчаны, маюць Т-падобную форму або злёгку адагнуты вонкі. На падставе знаходак можна сцвярджаць, што на месцы стаянкі пазней размяшчалася селішча жал. веку.

*Літ.*: 578. *В. Ф. Капыцін.*

**МО́ТАЛЬ,** група стаянак (каля 15) паблізу в. Моталь Іванаўскага р-на.

С т а я н к а-1. За 3 км на Пн ад вёскі, на пясчаным узвышшы правага берага р. Ясельда, ва ўрочышчы Гара. Даўж. 600 м, выш. над поймай ракі каля 4 м. Выявіў і даследаваў у 1962, абследаваў у 1986 У. Ф. Ісаенка. Раскопкі праводзіла ў 1986—90 А. Г. Калечыц. Ускрыта 400 м² на зах. ускраіне астанца і 692 м² у яго цэнтры.

Знойдзена больш за 15 тыс. рэчаў крамянёвай вытворчасці (нуклеусы, адшчэпы, пласціны, кавалкі канкрэцый, запасы сыравіны), прылад працы (скрабкі, разнастайныя разцы, сякеры, цёслы, долаты). Ёсць нажы, скрэблы, скоблі, серпападобныя прылады, праколкі, свярдзёлкі, наканечнікі стрэл, вастрыі яніславіцкага тыпу і тыпу Ставінога, мікрапласціны з рэтушаванай спінкай, ланцэты і інш. Большасць з іх датуецца ўсімі перыядамі неаліту. Гэта пацвярджае і характар рэштак ляпнога посуду, асн. частка якога аздоблена ўзорамі, тыповымі для *нёманскай культуры*. Найб. выразна прасочваецца пераемнасць некаторых свідэрскіх рыс у форме прылад і апрацоўцы крэменю, выкарыстанні папярочнага сколу для афармлення рабочага краю сякучых прылад і інш. Паколькі помнік не стратыграфаваны, частку рэчаў толькі па знешнім выглядзе і апрацоўцы струменістай рэтушшу можна аднесці да бронзавага веку. Астэалагічныя рэшткі, паводле вызначэння Н. П. Александровіч, належаць дзікім жывёлам (конь, зубр, алень, лось і інш.). Гасп. аб'екты не выяўлены.



Крамянёвыя нажы (1, 2), наканечнік стралы (3), разцы (4—6), вастрыё (7), скрабкі (8—9), сякеры (10,11), скобля (12), рэтушор (13), адбойнік (14) са стаянкі-5 **Моталь.**



Каменная булава бронзавага веку з **Моталя.**

С т а я н к а-2 эпохі мезаліту. За 3 км на Пн ад вёскі, на паўд. схіле невысокага марэннага ўзгорка паміж воз. Джыдзінне і р. Ясельда, каля старога рэчышча. Даўж. 200 м, выш. над поймай ракі 3 м. Выявіў і даследаваў у 1971, абследаваў у 1986 Ісаенка. Сярод 600 знойдзеных апрацаваных крамянёў, характэрных для *макралітычнай культуры*, пласціністыя наканечнікі, разцы, сякеры, скрэблы і інш. Датуецца 9—5-м тысячагоддзямі да н. э.

С т а я н к а-3 эпохі неаліту. За 4 км на ПнЗ ад вёскі, на пясчаным узвышшы на ПнУ ад воз. Джыдзінне (цяпер востраў на вадасховішчы). Даўж. 100 м, выш. над узроўнем вады 4 м. Выявіў у 1962, абследаваў у 1986 Ісаенка.

С т а я н к а-4. За 3,5 км на ПнЗ ад вёскі, на пясчаным узгорку на паўд.-ўсх. беразе воз. Джыдзінне (цяпер востраў на вадасховішчы). Даўж. 150 м, выш. над узроўнем вады 2—3 м. Выявіў і даследаваў у 1962, абследаваў у 1986 Ісаенка. Знойдзены абломкі посуду і прылад працы нёманскай і *лейкападобных кубкаў культуры*, гаршкоў жал. веку.

С т а я н к а-5 эпохі неаліту і бронзавага веку. За 2 км на Пн ад вёскі, на пясчаным узвышшы (2—4 м) сярод поймы р. Ясельда. Даўж. 250 м, выш. над узроўнем ракі 1—5 м. Выявіў у 1980 і абследаваў у 1987 Ісаенка, даследавала 52 м² у 1987 Калечыц.

Знойдзены 700 крамянёвых прылад працы (разцы, скрабкі, праколкі, разнастайныя скоблі, сякеры і цёслы, наканечнікі стрэл), абломкі гліняных пасудзін нёманскай і шнуравой керамікі культур, а таксама плітка для завастрэння касцяных праколак і іголак, буйное скрэбла, выцягнутыя трохвугольныя наканечнікі з вылучанымі тронкамі, нажы і прылады, якімі сякуць.

С т а я н к а-11. За 300 м на Пн ад урочышча Гара, на невысокім узвышшы паміж воз. Джыдзінне і р. Ясельда. Выш. над поймай ракі каля 1 м. Даследавала ў 1990 Калечыц. Ускрыта 164 м².

На глыб. 0,2—0,6 м знойдзена шмат прылад працы, рэштках крамянёвай вытворчасці, ляпнога і ганчарнага посуду, астэалагічнага матэрыялу. Прылады працы формай, асартыментам і спосабам апрацоўкі тыповыя для канца эпохі неаліту (3—2-е тысячагоддзі да н. э.). Сярод іх скрабкі, разцы, сякеры, цёслы, скрэблы, праколкі, свярдзёлкі, скоблі, пласціністыя і трохвугольныя наканечнікі стрэл, нажы і інш. Посуд аздоблены адбіткамі шнура, дробнымі наколамі тыпу адступаючай

лапаткі, тарцовымі адбіткамі невял. пласцінкі, зрэдку грэбеня. Вял. колькасць посуду неарнаментаваная.

Стаянка-12 эпохі неаліту і бронзавага веку. За 4 км на Пн ад вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Ясельда, за 300 м на З ад дамбы. Выявіў у 1978 Ісаенка, даследавала 56 м² у 1978 Калечыц. Знаходкі залягалі ў пласце шэрага пяску на глыб. 0,2—0,5 м.

Знойдзены скрабкі, разцы, сякеры, цёслы, наканечнікі стрэл, нажы, пракалкі і інш. вырабы, адходы крамянёвай вытворчасці і фрагменты ляпных пасудзін.

Найб. значныя калекцыі атрыманы на стаянках-1, 5. Пачынаючы з 1970-х г., мясц. краязнавец С. С. Лазюк сабраў на паверхні гэтых помнікаў больш за 3 тыс. прадметаў, у т. л. больш як 300 наканечнікаў стрэл, больш за 100 рубячых прылад, 150 скрабкоў і інш. Уся яго калекцыя складаецца толькі з гатовых вырабаў. Агульная колькасць культурных рэштках, выяўленых Ісаенкам, Калечыц і Лазюком, перавышае 30 тыс. адзінак.

*Літ.*: 460.

*У. Ф. Ісаенка, А. Г. Калечыц.*

**МО́ХАЎ**, комплекс археал. помнікаў (гарадзішчы, бескурганны і курганныя могільнікі) каля в. Мохаў Лоеўскага р-на.

Гарадзішча-1 *мілаградскай культуры.* За 2 км на Пн ад вёскі. Пляцоўка памерам 200×140 м займае мыс на правым беразе Дняпра. З боку поля ўмацавана валам выш. 3—4 м, даўж. каля 140 м. Абследаваў у 1935 А. Дз. Каваленя, даследавала 820м² у 1955—56 і 1961 В. М. Мельнікоўская. Культурны пласт 0,3—0,4 м. Выяўлены сляды жытла шматграннай формы з закругленымі вугламі памерам 8,5×6,5 м, заглыбленага ў зямлю на 1 м. У цэнтры яго знаходзіўся слуп, па перыметры — нахіленыя калы, што дае падставу рэканструяваць жытло як буданападобнае. Унутры жытла выяўлены сляды адкрытага агнішча, знойдзена вял. колькасць керамікі і жал. цясла. На гарадзішчы зафіксаваны слупавыя і гасп. ямы, знойдзены жал. матыка, ляпныя гаршкі і паўсферычныя пасудзіны. Датуецца 5—4 ст. да н. э.

Гарадзішча-2 мілаградскай і *зарубінецкай культуры.* За 2 км на ПдУ ад вёскі, на мысе правага берага Дняпра, утвораным двума ярамі. Пляцоўка, блізкая да прамавугольнай, памерам 65×60 м, з боку поля ўмацавана валам выш. да 5 м. Даследаваў 240 м² у 1952—53 П. М. Траццякоў. Культурны пласт 0,4—0,6 м. Выяўлены рэшткі 2 мілаградскіх і 1 зарубінецкага жытлаў.

Адно з іх слупавой канструкцыі, памер 3,4×3,1 м, заглыблена ў зямлю на 0,3 м. З усх. боку знаходзіўся выступ круглаватай формы, у якім размяшчалася адкрытае агнішча. На падлозе знойдзены абпаленыя камяні, косці жывёл, вял. колькасць керамікі, абломак бронзавага бранзалета, гліняная прасліца, 2 жал. стрыжні і некалькі гліняных вырабаў. Другая пабудова памерам 3,5×3,5 м заглыблена ў зямлю на 0,2 м. У цэнтры яе размяшчалася агнішча. У адным з вуглоў знаходзіўся прамавугольны выступ. Знойдзены абпаленыя камяні, фрагменты мілаградскай керамікі. Зарубінецкае жытло наземнае, мела форму, блізкую да прамавугольнай, памер 6×4 м. Аснову сцен складалі вертыкальна ўкапаныя слупы. У цэнтры яго знаходзілася агнішча. Выяўлены 2 паграбы: адзін памерам 1,3×1,1 глыб. 0,6 м меў грушападобную форму і плоскае дно, другі — звонападобную форму. Знойдзены ляпныя гаршкі з адагнутым вонкі венчыкам і яйцападобным тулавам, паўсферычныя пасудзіны, гліняныя прасліцы і грузікі, ліцейная форма, фігурка жывёліны, амулет з ікла мядзведзя; частка зарубінецкіх грубаляпных гаршкоў мела па краі венчыка зашчыпы або насечкі. Знойдзены таксама міскі, кубкі, мініяцюрныя пасудзіны і накрыўкі, біканічныя прасліцы, арнаментаваныя наразным узорам, жал. серп і інш.

Датуецца 6 ст. да н. э.— 1 ст. н. э.

Гарадзішча-3 мілаградскай культуры. За 2 км на ПнУ ад вёскі, ва ўрочышчы Шолахаў Кут, на правым беразе Дняпра. Пляцоўка памерам 100×50 м. Абследаваў у 1956 і 1975 Л. Д. Побаль. Культурны пласт 0,3—0,4 м. Знойдзена ляпная кераміка.

Бескурганны могільнік мілаградскай культуры. На гарадзішчы-2 побач з паўзямлянкай і валам. Выявіла ў 1961 Мельнікоўская. Пахавальны абрад — трупаспаленне за межамі могільніка. Ачышчаныя ад кастра кальцыніраваныя косці змяшчаліся на дно круглых або авальных ям. У некаторых выпадках у магілах траплялісся камяні. Пахавальны інвентар прадстаўлены абломкамі керамікі.

Курганны могільнік-1 *дрыгавічоў.* На паўд.-ўсх. ускраіне вёскі. Каля 100 паўсферычных насыпаў (раней было 600 курганоў). У 1890 У. З. Завітневіч даследаваў 26 насыпаў. У 9 з іх пахавальны абрад трупаспалення, у 2 кальцыніраваныя косці змяшчаліся ў урнах, пастаўленых у насыпе. У 15 курганах нябожчыкі пахаваны на грунце, на якім прасочаны тонкі пласт попелу, галавой на З. У некаторых насыпах адзначаны рэшткі драўляных чатырохвугольных збудаванняў.

Знойдзены металічныя і шкляныя пацеркі, грузік, бронзавая бляшка, драцяныя кольцы, шыйная грыўня, бразготкі, спражка, нажы, крэсіва, сякеры, гаршкі і інш. Адзін курган быў пусты (кенатаф), у другім нябожчык быў пахаваны ў яме глыб. 0,7 м у драўлянай труне галавой на Пн.

Датуецца 10—12 ст.

Курганны могільнік-2. На ПнУ ад вёскі, на беразе Мохаўскага воз. 6 курганоў дыям. 6,5—8,5 м, выш. 0,4—0,8 м. Выявіў і абследаваў у 1978 М. І. Лашанкоў.

*Літ.*: 379, 772, 1210, 1340.

*А. А. Егарэйчанка, Г. В. Штыхаў.*

**МСЦІ́БАВА**, гарадзішча каля в. Мсцібава Ваўкавыскага р-на. За 500 м на З ад вёскі, на правым беразе р. Альшанка, у нізіннай забалочанай мясцовасці. Пляцоўка ідэальна круглая, дыям. 30 м, выш. 1 м. Па ўсім перыметры яна ўмацавана магутным (выш. каля 5 м) валам са стромкімі схіламі. Дыям. гарадзішча па грэбені вала 56 м. З усх. боку вал да асновы прарэзаны ўездам. За 120—150 м на Пд і ПдЗ ад пляцоўкі, дзе мясцовасць паступова павышаецца, ёсць другі невысокі (1—1,5 м) доўгі (больш за 200 м) вал, які абодвума канцамі ўпіраецца ў балота. Перад валам прасочваюцца сляды заплыўшага рова. Гарадзішча абследавалі ў 1951 С. А. Тараканава, у 1959 П. А. Рапапорт, даследавалі ў 1974 Я. Г. Звяруга, у 1988—89 г. С. А. Піваварчык. Культурны пласт таўшч. 0,2—0,8 м ускрыты на пл. 268 м².

Знойдзена кругавая кераміка 12—13 ст. і больш позняга часу (керамічныя матэрыялы 16—17 ст. складаюць каля 90 %). У раёне знешняга вала і на Пд ад яго выяўлены абломкі керамікі эпохі Кіеўскай Русі. Рапапорт выказаў меркаванне, што гарадзішча — рэшткі замка валынскага баярына Мсцібога, які ўпамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1202 (мяст. Мсцібава да 16 ст. называлася Мсцібогавым Гарадком). Умацаванні гарадзішча выкарыстоўваліся ў 17—18 ст.

*Літ.*: 427, 954, 1146.

*С. А. Піваварчык.*

**МСЦІСЛА́Ў**, горад, цэнтр Мсціслаўскага р-на, на р. Віхра. За 95 км на У ад Магілёва, 19 км ад чыг. ст. Ходасы на лініі Орша — Крычаў. Вузел аўтадарог на Магілёў, Горкі, Крычаў, Чавусы, Хіславічы (Расія).

Археал. помнікамі старажытнага М. з'яўляюцца гарадзішчы Дзявочая гара, Замкавая гара (дзядзінец) і пасад.

Гарадзішча Дзявочая гара сярэдзіны 1-га тысячагоддзя да н. э.— 1-га ст. н. э. Размешчана ў паўн. частцы М. на мысе высокага правага берага р. Віхра. Вышыня над узроўнем вады ў рацэ больш за 10 м. Пляцоўка памерам 108×48 м умацавана па краі валам выш. каля 2,5 м. Паводле падання, гара на мысе нібыта была насыпана дзяўчатамі, што, як і назва помніка, сведчыць пра сувязь яе з культам язычніцкага жаночага бажаства, багіні-дзевы. Адкрыў у 1893 Е. Р. Раманаў, абследавалі ў 1926 А. М. Ляўданскі і С. А. Дубінскі, у 1978 М. А. Ткачоў, даследаваў у 1959—60 Л. В. Аляксееў (ускрыў 192 м² у паўд. частцы пляцоўкі і зрабіў прарэзку вала). Культ. пласт 0,4—0,6 м.

Выяўлены невял. колькасць керамікі ранняга бронзавага веку, шмат керамікі *днепра-дзвінскай культуры* і ранняга этапу *зарубінецкай культуры.* Частка посуду пакрыта штрыхамі.

Знойдзены сярэднелатэнская фібула, 2 грузікі дзякоўскага тыпу, абломак касцяной восці, серп, серпападобны нож, касцяныя пацеркі, шкляныя бранзалеты (12—13 ст.), жал. наканечнікі стрэл (17 ст.) і інш. У мацерыку выяўлены ямы — прамавугольная і мелкая бясформенная, у якой знойдзена некалькі чарапных касцей дзіцяці (верагодна, рэшткі ахвярапрынашэння). Верхняя частка культурнага пласта ў старажытнасці была скапана для падсыпкі вала, які дасыпаўся і ў пач. нашай эры. Паверхня вала для трываласці была абкладзена жэрдкамі. У 12—17 ст. выкарыстоўвалася як сховішча.



**Мсціслаў.** Гарадзішча Дзявочая гара.



**Мсціслаў.** Гарадзішча Замкавая гара.

Гарадзішча Замкавая гара з'яўляецца першапачатковым цэнтрам старажытнага М. Размешчана на высокім правым беразе р. Віхра і ўзвышаецца на 20 м над узроўнем вады. Пляцоўка (пл. каля 2 га) па перыметры была ўмацавана кальцавым валам (захаваўся паўд.-ўсх. ўчастак). Першыя летапісныя звесткі пра гарадзішча адносяцца да 1156. Абследавалі ў 1893 Е. Р. Раманаў, у 1925 Ляўданскі, у 1928 Дубінскі, у 1978 Ткачоў. Раскопкі праводзіў у 1956—85 Аляксееў (ускрыта больш за 1200 м²). Культурны пласт (3,3 м) з трох гарызонтаў: даярусны (ніжні пласт) — 0,8—0,9 м над мацерыком з часоў існавання пасялення да ўзнікнення вулічных драўляных вымасткаў; ярусны (сярэдні гарызонт), дзе па драўляных насцілах вуліц вылучаюцца адначасовыя напластаванні помніка; над'ярусны (верхні гарызонт), у якім па ўмовах залягання драўляныя рэшткі не захоўваюцца. У ніжніх напластаваннях (2-я пал. 12 ст.) знойдзены падвескі ў выглядзе абраза, сегнерава кола з выявай крыжа і інш., рэшткі драўляных пабудоў (самая ранняя датуецца 1204). У паўн. частцы дзядзінца ў мацерыку — могільнік першых пасяленцаў М., а таксама рэшткі знішчаных пажарам пабудоў. У сярэдніх напластаваннях выяўлены рэшткі 2 вымашчаных бярвёнамі перакрыжаваных вуліц. Старажытная маставая была пракладзена ў 1230—40-я г. Заходні бок вуліцы, што ішла ў напрамку Пн—Пд, быў шчыльна забудаваны клецямі, сярод якіх вылучаўся дом з падлогай і глінабітнай печчу ў паўн. куце каля ўвахода. На ўсх. баку вуліцы стаяла чатырохвугольная ў плане ялова капліца з алтаром і пахаваннямі ўнутры. Раскопкі ў паўн. частцы дзядзінца даюць падставу мерка-



Грабеньчык 14—15 ст. з **Мсціслава.**



Касцяная накладка 14—16 ст. з **Мсціслава.**

ваць, што найбольш інтэнсіўнае будаўніцтва ў М. прыпадае на 1260-я г., калі была пракладзена другая маставая (1261). Прасочваюцца межы двароў, абнесеных частаколам. На месцы капліцы пазней узнікла дубовае збудаванне з трохсценных зрубаў. Выяўлены рэшткі абарончай вежы-данжона з пахаваннямі ўнутры, якая, верагодна, у мірны час выконвала ролю царквы. У пач. 14 ст. пажар знішчыў большасць пабудоў у М. У выніку адбудовы горада змянілася яго планіроўка — жылыя дамы ставілі не па чырвонай лініі вуліц, а ў глыбіні ўчасткаў. Захаваліся 3 вянкі з яловых бярвён ад васьмівугольнай вежы-данжона, якая таксама выкарыстоўвалася ў якасці царквы (гл. ў арт. *Мсціслаўскі замак*). Сярод знаходак — бронзавы крыж-энкалпіён (канец 12 ст.) з надпісам «Богородица помогай», фрагмент берасцяной граматы, пісалы з надрапанымі літарамі НТА, Ж, РВ, шахматныя фігуры з дрэва і косці (пешка і ладдзя), абломкі шклянога келіха з арабскім надпісам, рэшткі разбітых званоў, сагнуты наканечнік вялікай рагаціны (12—13 ст.). У культурных напластаваннях 14—17 ст. знойдзена шмат фрагментаў чорна-глянцаванага паліванага і шклянога посуду, тэракотавая і паліхромная паліваная кафля, гліняныя пісанкі, вырабы з жалеза і косці, дэталі арбалетаў, тыглі і ліцейныя формы, асколкі гарматных ядраў. Выяўлены сляды гарбарнай майстэрні з кавалкамі скур і касцянымі пласцінкамі-накладкамі на калчан з заморфным і геам. арнаментам. Археал. даследаванні на дзядзінцы сведчаць, што жыхары М. займаліся ў асноўным ганчарным, гарбарным, ювелірным і інш. рамёствамі, гандлявалі з Кіевам, Валынню, Каўказам, апасродкавана — з Арабскім Усходам. Паводле пісьмовых крыніц, на мсціслаўскім дзядзінцы існавалі 2 царквы — Багародзіцы і св. Мікалая. Ад першай захаваліся фрагменты плінфы рубяжа 12—13 ст., рэшткамі другой з'яўляецца выяўленая пры раскопках, відаць, абарончая вежа-данжон. Яе канструкцыя дае падставу меркаваць, што цэрквы абарончага тыпу існавалі на Беларусі не толькі ў 15—16 ст., а і раней, але былі з дрэва. Дзядзінец знішчаны ў 1654 у час аблогі М. рус. ваяводам А. М. Трубяцкім.

П а с а д размяшчаўся на У і З ад гарадзішча, існаваў у 12—18 ст. Узнік на месцы паселішча 10—11 ст., якое папярэднічала «граду Мсціславу», пабудаванаму ў 1135 смаленскім кн. Расціславам Мсціславічам. Размяшчаўся па лініі Пд—У за абарончым ровам Мсціслаўскага замка. Даследавалі ў 1957 Аляксееў, у 1981—87 А. А. Трусаў, у 1981 і 1987 Ткачоў, у 1987 А. А. Мяцельскі. Знойдзены кераміка 10—11 ст., калачападобнае крэсіва і грэбень 10—12 ст. Пасад абмежаваны на З сучаснай вул. Леніна, на Пд — тэрыторыяй паміж вуліцамі Кірава і Савецкай і зонай вакол замкавага рова. Найб. магутнасць культурнага пласта ў гэтай зоне (каля касцёла кармелітаў) дасягае 3 м, а адкладанні эпохі Кіеўскай Русі каля 0,8 м. Тут выяўлены абломкі шкляных бранзалетаў, шыферныя прасліцы, ключы, касцяныя грабяні, крэсівы, крыж-энкалпіён 12 ст., бронзавы абразок, абломкі керамікі. На краі рова, які аддзяляў пасад ад Замкавай гары, знойдзены рэшткі





Галандскі дукат 17 ст., знойдзены пры раскопках Мсціслаўскага дзядзінца.

домніцы, гліняныя сопла, шлак, шкляныя бранзалеты, кераміка 13—14 ст. Каля касцёла ўскрыта пабудова 12 ст., заглыбленая ў мацярык. Па рэштках ніжняга вянка можна меркаваць, што яна зрублена ў просты вугал з бярвён таўшчынёй 16—18 см, памер 3×3 м, была з'арыентавана вугламі па баках свету. У паўд.-зах. куце выяўлены развал печкі-каменкі і падпечная яма, на ўсёй плошчы пабудовы — кавалкі шкляных бранзалетаў, нож, грушападобная каменная падвеска, касцяны састаўны грэбень 12—13 ст. Непадалёку, у мацерыковай яме, знойдзены асобныя фрагменты керамікі 10—11 ст. Тут жа ў раскопе ўскрыты ўчастак стараж. вала шыр. 4 м, выш. 1—1,5 м. Прарэзка яго сведчыць, што ядро вала зроблена з гліны, паверх якой насыпаны пласт гумусаванай глебы. Ніжэй вяршыні вала, па яго трасе, стаяў вастракол з дубовых бярвён таўшч. да 20 см. Знаходкі вала даюць падставу меркаваць, што ён насыпаны не раней 14 ст. Гэта азначае, што пасад атрымаў самастойныя



Да арт. **Мсціслаў.** Выява герба мсціслаўскага феадала. 17 ст.

абарончыя збудаванні і ператварыўся ў вакольны горад. Парубежнае становішча Мсціслава і частыя войны 15—17 ст. перашкаджалі тэрытарыяльнаму росту вакольнага горада, і ў 14 — 1-й пал. 16 ст. ён перасягнуў межы пасада 12—13 ст. Пашырэнне адбылося толькі на У ад сучаснай вул. Юрчанкі. Выяўленыя тут матэрыялы адносяцца да 14—15 ст. (гл. *Мсціслаўская касцярэзная майстэрня)* і 14—16 ст. (шмат гаршковай кафлі, непаліванага посуду, у т. л. з клеймамі, манеты ВКЛ). Пасля надання Мсціславу магдэбургскага права гандлёва-рамесныя кварталы горада выраслі ўдвая і дасягнулі межаў сучасных вуліц Калініна і Першамайскай. У гэты час узведзены новыя гар. ўмацаванні. Шырокае развіццё атрымала вытворчасць кафлі і шкляных вырабаў. У прырэчнай частцы горада на Падоле ўзнік хлебны рынак. Развівалася некалькі сістэм забудовы: на Пд ад гарадзішча існавалі кварталы з парадковай забудовай, якая далей пераходзіла ў радыяльную, а бліжэй да ўскраін — у разгалінаваную. Гэта, відаць, звязана з размяшчэннем уязных брам Траецкай, Афанасьеўскай, Спаскай і Папоўскай. У 17 ст. за межамі гар. ва-

ла пачалі развівацца слабоды — Яўрэйская, Казіміроўская, Пячкоўская, Здаровец-Падол. Тады ж фарміруюцца Зарэчча, паселішча вакол *Мсціслаўскага Тупічэўскага манастыра.* Культурны пласт 17 ст. ёсць на У ад замка на Панівойскай гары і гарадзішчы Дзявочая гара. У развілцы дарог на Магілёў і Шамава пачаў складвацца раён, які пазней атрымаў назву Канстанцінаўскі фарштат. У Іпацьеўскім летапісе пад 1156 М. названы горадам Смаленскага княства. Упамінаецца М. у 12 ст. ў грамаце Смаленскай епіскапіі, датаванай 1211—18 гадамі. З 1180 М.— цэнтр удзельнага княства. У 1359 захоплены кн. ВКЛ Альгердам. З 2-й пал. 14 ст. ў складзе ВКЛ, належаў кн. Мсціслаўскім. З 1528 уладанне вял. князя ВКЛ і караля Польшчы Жыгімонта II Аўгуста, цэнтр староства. З 2-й пал. 16 ст. цэнтр Мсціслаўскага ваяводства. У 1634 М. атрымаў магдэбургскае права і герб. У пач. руска-польскай вайны 1654—67 заняты рус. войскамі (да 1661), амаль поўнасцю знішчаны, з цяжкасцю адрадзіўся, але Паўн. вайна 1700—21 зноў яго зруйнавала. З 1772 М. у складзе Расійскай імперыі, цэнтр правінцыі.

*Літ.:* 36, 38, 39, 43, 48, 51, 58, 605, 848, 1219, 1222.

*Л. В. Аляксееў, М. А. Ткачоў, А. А. Трусаў.*

**МСЦІСЛА́ЎСКАЯ КАСЦЯРЭ́ЗНАЯ МАЙСТЭ́РНЯ,** археал. помнік у г. Мсціслаў. Выявіў у 1986 А. А. Трусаў (на Першамайскай вуліцы) у час раскопак вакольнага горада. Уяўляла сабой паўзямлянку, заглыбленую ў мацярык на 1,5 м. У яе запаўненні сабрана вял. колькасць касцей, загатовак, 62 абрэзкі рагоў лася, кавалкі бракаваных касцяных накладак у выглядзе пласцін з адтулінамі, у некаторых выпадках — з шыпамі-цвічкамі для мацавання (адна пласціна аздоблена геам. арнаментам і расфарбавана вохрай), раструшчаны гаршчок з плавіннем ад рагоў лася, недароблены грабеньчык, рыштунак касцярэза (насаджаны на касцяную ручку разец у выглядзе трохграннага стальнога стрыжня, выгнутага пад вуглом 90°, нажніцы, каменнае лашчыла), а таксама вял. колькасць фрагментаў непаліваных гаршкоў 15—16 ст. Знаходкі дазваляюць датаваць майстэрню канцом 14—15 ст. Майстэрня знішчана пажарам (мяркуючы па знойдзеных венчыках гаршкоў) у 1-й пал. 16 ст.

*Літ.:* 1216а. *А. А. Трусаў.*

**МСЦІСЛА́ЎСКІ ГІСТО́РЫКА-АРХЕАЛАГІ́ЧНЫ МУЗЕ́Й.** Заснаваны ў 1988. Больш за 20 тыс. экспанатаў (1991). 2 экспазіцыйныя залы. Пл. 200 м². У аснове калекцый — знаходкі археал. экспедыцый 1980—89 вытворчага аб'яднання «Белрэстаўрацыя». Археал. матэрыялы асвятляюць этапы развіцця феад. горада, рамёстваў, эстэтычнага ўяўлення і мастацкага густу гараджан Мсціслава. Ёсць калекцыя шкла 12 — пач. 20 ст.: пацеркі, бранзалеты, лампады, аптэчнае начынне, шкляныя пячаткі з ініцыяламі гаспадароў гут і гербаў мсціслаўскай шляхты, посуд (бутлі, куфлі, кварты, міскі і інш.); калекцыя керамікі і мсціслаўская кафля 16—18 ст., посуд (гаршкі, кубкі, збаны, глякі, рынкі, талеркі, міскі); вырабы з металу 12 — пач. 20 ст. (ключы, замкі, наканечнікі стрэл, коп'яў, баявая сякера, бярдыш, дзвярныя ручкі, засаўкі, вагі, безмен, медны посуд і інш.). Захоўваецца калекцыя манет 14—20 ст., медальёны з выявамі каталіцкіх святых, прылады працы і побыту, адзенне і абутак сялян і гараджан 19 ст., драўляная скульптура 18 ст., абразы, мэбля 19—20 ст.

*С. М. Клімаў.*



1



2

Касцяныя накладка з выявай шляхціца (1) і шашка (2) з **Мсціслаўскай касцярэзнай майстэрні.**

**МСЦІСЛА́ЎСКІ ЗА́МАК.** Існаваў у 14—18 ст. у г. *Мсціслаў.* Размяшчаўся на пляцоўцы гарадзішча Замкавая гара 12—13 ст., на высокім правым беразе р. Віхра, ад якой аднак быў значна аддалены. Замак абкружалі шырокія (60—100 м) і глыбокія (больш за 25 м) яры. Пляцоўка М. з. была абведзена кальцавым валам, ад якога захаваўся значны ўчастак з ПдУ. З напольных усх. і паўд. бакоў выш. вала дасягала 6—7 м, шыр. ў аснове — 15—18 м. На яго вяршыні стаялі зрубныя абарончыя канструкцыі — гародні, абмазаныя глінай, шмат'ярусная вежа і ўязная брама. Паводле гіст. крыніц за 1389, на гароднях былі спец. навясныя баявыя пляцоўкі — забаролы. Перыметр замкавых умацаванняў перавышаў 800 м. Высокі мост на палях злучаў замак з горадам. У цэнтры М. з. ўзвышалася магутная васьмівугольная вежа-данжон, ніжні ярус якой займаў храм. Вежа была пабудавана ў 15—16 ст. і неаднаразова абнаўлялася. На замкавым двары знаходзіўся вельмі глыбокі калодзеж, які ў час аблогі забяспечваў абаронцаў вадой. М. з. лічыўся важнейшым стратэгічным замкам Пасожжа на мяжы ВКЛ і Маскоўскай дзяржавы, таму перажыў шмат аблог і войнаў. У 1389 на працягу 11 дзён яго асаджала войска смаленскага кн. Святаслава Іванавіча. Абаронцы адбілі ўсе штурмы, а сцены замка вытрымалі ўдары каменямётных машын — поракаў. У перыяд міжусобнай вайны (1432—39) паміж вял. князем ВКЛ Свідрыгайлам і Жыгімонтам Кейстутавічам М. з. адзіны на Беларусі не паддаўся войску апошняга і вытрымаў трохтыднёвую аблогу. Потым былі асады рус. войскамі ў 1500, 1502 і 1508 (двойчы), 1514. У пач. 16 ст. ў замку былі гарматы-тарасніцы, арбалеты, размяшчаўся гарнізон наёмных салдат-«дробаў», які ў час войнаў налічваў 600—900 чал. Воінскія даспехі ў М.з. даглядалі і выраблялі спец. майстры-платнеры. Гарматы (тарасніцы, фальканеты, серпянціны, карцечніцы, шротаўніцы, «делы великие медные») пастаўляліся цэнтралізавана з Віленскага цэйхгауза. Паводле дакументаў, раз у 10 гадоў рабіліся рэвізіі М.з., агляд яго ўмацаванняў, арсенала, студні, хлебных свірнаў і інш. Акты рэвізій за 1604 і 1614 утрымліваюць падрабязныя звесткі пра колькасць гармат, гакаўніц, бочак (і іх вагу) з салетрай і порахам, ядраў усіх калібраў, волава, серы, рознага інш. рыштунку. У 1633 М.з. паспяхова адбіў штурмы казакоў Б. Нагогі. Пасля надання Мсціславу ў 1634 магдэбургскага права замак яшчэ больш умацавалі. Гэтаму ў значнай ступені садзейнічала эканам. развіццё горада. У час рус.-польскай вайны 1654—67 у ліп. 1654 рус. войскі (18,2 тыс. чал.) на чале з кн. А. М. Трубяцкім, Р. С. Куракіным, Ю. А. Далгарукім і С. Р. Пажарскім акружылі Мсціслаў і замак. У выніку 4 штурмаў

з 18 да 22 ліп. замак быў узяты і спалены, а большасць абаронцаў перабіта. Стратэгіч. важнасць М. з. спрыяла хуткаму яго аднаўленню. У 1658 і 1660 жыхары замка рабілі перавароты, падоўгу сядзелі ў асадах і амаль усе загінулі. Паводле загаду цара ў канцы 1660 М. з. быў поўнасцю спалены, а апошнія 46 яго абаронцаў сасланы ў палон у Яраслаўль. Толькі ў 1676 сейм Рэчы Паспалітай прыняў рашэнне аднавіць замак і выдзеліць для гэтай мэты грошы, артылерыю і розны рыштунак. У час Паўн. вайны 1700—21 М. з. быў узарваны ў жн. 1708 адступаючым войскам Пятра І. Пасля вайны замак адбудавалі, і ён праіснаваў да 1772, калі Мсціслаў быў далучаны да Расійскай імперыі і патрэба ў М. з. адпала.

*Літ.:* 1189. *М. А. Ткачоў.*

**МСЦІСЛАЎСКІ ТУПІЧЭЎСКІ МАНАСТЫР.** Існаваў у сярэдзіне 17 ст.— 1950-я г. на ўсх. ускраіне г. Мсціслава. Заснаваны як мужчынскі (з 1886 жаночы) манастыр. Складаўся з Святадухаўскай, Увядзенскай, Мікалаеўскай, Успенскай цэркваў, манастырскіх і гасп. пабудоў. Быў абнесены спачатку драўлянай, з канца 19 ст.— мураванай агароджай; захаваліся фрагменты мураванай агароджы, брамы і капліц канца 19 ст. Святадухаўская царква (пабудавана ў 1641) — драўляны крыжова-купальны храм (25×25 м) на каменным падмурку, абнесены паўзакрытай галерэяй на каменных слупах, завершаны 5 купаламі з галоўкамі. Дах спачатку быў накрыты гонтай, з канца 19 ст.— бляхай. Сцены ў інтэр'еры ў 2-й пал. 17 ст. былі размаляваны на біблейскія сюжэты (73 кампазіцыі). Уздоўж сцен праходзілі хоры. Галоўны пяціярусны іканастас і бакавы былі аздоблены разьбой і пазалотай. Аналаг — царква *Аршанскага Куцеінскага Богаяўленскага манастыра.* Увядзенская царква (пабудавана ў 1771) — драўляны прамавугольны ў плане будынак (каля 12×7 м) на каменным падмурку, аднакупальны. У канцы 19 ст. царкву падоўжылі да 22 м, яна была абкладзена цэглай і накрыта бляхай. У інтэр'еры сцены былі атынкаваны і ўпрыгожаны арнаментам і размалёўкай на рэлігійныя сюжэты. Іканастас аднаярусны. Мікалаеўская царква — драўлянае збудаванне (9×8 м), размяшчалася ў 2-м ярусе драўлянай надбрамнай званіцы. Завершана купалам з галоўкай. Дах крыты гонтай. У інтэр'еры двух'ярусны іканастас. Разбурана ў 1832. Успенская царква (пабудавана ў 1891—95 у псеўдарускім стылі) — мураваны крыжова-купальны храм. Гал. аб'ём (29×18 м) завершаны купалам, над прытворам — званіца. У канцы 19 — пач. 20 ст. на манастырскім двары былі кухня, дом ігуменні, некалькі дамоў для манашак, свіран, вазоўня, стайні, па-за манастырскай агароджай — дом для свяшчэнніка, вучылішча, амбулаторыя з аптэкай.

Археал. даследаванні на тэр. манастыра правёў у 1982 А. А. Трусаў. У культурным пласце 16—18 ст. знойдзена непаліваная кафля 17 ст. з выявай св. Георгія на кані, паліхромная кафля 18 ст. з царкоўнай геральдыкай і паліваная і непаліваная кафля 17 ст., аздобленая раслінным і геам. арнаментам.

*Літ.:* 943.

*А. А. Трусаў, Л. Л. Чарняўская.*



Непаліваная кафля 17 ст. з выявай св. Георгія з Мсціслаўскага Тупічэўскага манастыра.

**МСЦІСЛАЎСКІ ЦАРКОЎНА-АРХЕАЛАГІЧНЫ МУЗЕЙ.** Адкрыты ў 1915 пры Мсціслаўскім духоўным вучылішчы. Меў аддзелы: археалагічны, нумізматычны, этнаграфічны, царкоўных старажытнасцей і аддзел 100-годдзя Мсціслаўскага духоўнага вучылішча. У 1923 налічваў 1157 экспанатаў. Сярод іх косці маманта з кар'ера мясцовай цагельні, каменныя сякеры, кераміка з Замкавай гары, манеты ВКЛ 16—17 ст. і Рускай дзяржавы 17—18 ст., узоры народнай вопраткі, с.-г. прылады працы, вырабы з лазы, лыка, дрэва, старадрукі і рукапісныя царкоўныя кнігі. У 1924 музей пераведзены ў будынак Мсціслаўскага белпедтэхнікума, створаны новыя аддзелы: прыродна-гістарычны, мастацка-прамысловы і бібліяграфічны. Пры музеі дзейнічалі гурткі аматараў вывучэння мясцовага краю і аховы гіст. помнікаў, быў выпрацаваны статут музея. Экспанаты загінулі ў гады Вял. Айчыннай вайны. *М. А. Ткачоў.*

**МУГУРЭВІЧ** Эвалд Станіслававіч (н. 6.4.1931, в. Баркава Рэзекненскага пав., Латвія), латышскі археолаг. Чл.-кар. Латвійскай АН (1989). Д-р гіст. навук (1984), прафесар (1990). Скончыў Латвійскі ун-т (1956). З 1956 навук. супрацоўнік гіст. музея ў Рызе, з 1958 навук. супрацоўнік, з 1971 заг. аддзела археалогіі Ін-та гісторыі Латвійскай АН. Асн. напрамак навук. даследаванняў — жал. век, сярэдневяковая археалогія, гіст. геаграфія, культурныя сувязі Латвіі з суседнімі землямі, уключаючы Беларусь. Лічыў стараж. гарады на Зах. Дзвіне Герцыке і Кукенойс цэнтрамі праваслаўя ў 11—13 ст. Разглядаў Зах. Дзвіну (Даўгаву) з 10 ст. як важную магістраль у сувязях з усх. славянамі, уключаючы полацкіх крывічоў. Устанавіў, што каваныя сярэбраныя злiткі ў выглядзе кручанай стужкі ў 2-й пал. 11 ст., распаўсюджаныя на Готландзе, часта сустракаюцца ў Літве і на Беларусі. Выказаў думку, што бронзавыя бранзалеты з завязанымі канцамі прывозіліся ў Латвію ў 11—12 ст. з зямель крывічоў, радзімічаў, дрыгавічоў, а зоркападобныя фібулы адліваліся ў Латвіі на ўзор фібул радзімічаў.

*Тв.:* Восточная Латвия и соседние земли в X — XIII вв. Рига, 1965; Состояние и задачи археологического изучения этногенеза балтских народов (разам з А. З. Таўтавічусам) // Из древнейшей истории балтских народов: (по данным археологии и антропологии). Рига, 1980; Находки железных частей пахотных орудий 10—17 вв. в Восточной Прибалтике // Новое в археологии Прибалтики и соседних территорий: Сб. ст. Таллинн, 1985. *Г. В. Штыхаў.*

**МУЗЕЕФІКАЦЫЯ** археалагічных аб'ектаў, комплекс мер, накіраваных на захаванне і экспанаванне археал. аб'ектаў з мэтай прапаганды гіст. ведаў. Праводзіцца паводле распараджэння або пастановы Савета Міністраў Беларусі. М. папярэднічаюць археал. раскопкі, кансервацыя ўскрытых археал. аб'ектаў і ўзвядзенне над імі стацыянарнага павільёна, прадугледжваецца адпаведны догляд і ўтрыманне аб'ектаў у належным стане.

На Беларусі першая спроба М. адносіцца да Краснасельскіх шахтаў (гл. *Краснасельскі археалагічны комплекс),* дзе пастановай СМ БССР (1964) намячалася стварыць археал. запаведнік з мэтай забеспячэння захаванасці, даследавання і экспанавання помніка. Ажыццёўлена поўная М. Берасцейскага гарадзішча, дзе раскоп пл. 1832 м² перакрыты стацыянарным павільёнам. У экспазіцыі прадстаўлена забудова Бярэсця 13 ст., рэчы матэрыяльнай культуры 11 — пач. 14 ст. Прыняты таксама рашэнні ўрада аб стварэнні археал. музеяў у Віцебску (1980) і Мінску (1987). Плошчы раскопаў падрыхтаваны на *Віцебскім Верхнім замку,* Мінскім замчышчы (ускрыты ўчасткі гар. забудовы 13—17 ст., абарончых збудаванняў 12 ст.), над імі ўзведзены часо-

выя павеці. За межамі Беларусі М. археал. аб'ектаў вядома па раскопках сараж. Херсанеса ў Севастопалі.

*Літ.*: 483, 702. *Л. У. Калядзінскі.*

**МУЗЕ́Й БЕЛАРУ́СКАГА ПАЛЕ́ССЯ.** Адкрыты ў 1926 у Пінску як Палескі краязнаўчы музей, пераўтвораны ў 1940 у Пінскі абл. гісторыка-краязнаўчы, з 1954 Пінскі краязнаўчы музей, у 1979—90 Музей сацыялістычнага пераўтварэння Палесся; з 1936 існуе аддзел археалогіі. У археал. калекцыі 9,6 тыс. адзінак захавання (1990). Экспануюцца матэрыялы з раскопак могільнікаў *Велямічы, Дубай, Рамель*, гарадзішча *Хатомель*, Пінскага замчышча і інш. У экспазіцыі калекцыя керамічных плітак 12 ст.— адзіная ў рэспубліцы па іх колькасці (30) і разнастайнасці форм, фрагмент збана 12 ст. з надпісам «[Я] раполче вино», кераміка, бронзавыя ўпрыгожанні і інш. У нумізматычнай калекцыі 17,8 тыс. манет пераважна 16 — пач. 20 ст.; самыя стараж. манеты Рымскай імперыі: ас Клаўдзія, малы ас Флавія Веспасіяна (1 ст. н. э.). Захоўваюцца 8 манетных скарбаў (8657 манет), у т. л. адзін клад уключае 7067 білонных і сярэбраных манет ВКЛ, Рэчы Паспалітай і інш. Значная колькасць манет з каштоўных металаў страчана ў перыяд акупацыі Пінска ням.-фаш. захопнікамі. *В. М. Лытнеў.*

**МУЗЕ́Й ВАЛУНО́Ў.** Створаны ў 1985 у Мінску (мікраараён Уручча) як эксперыментальная база па вывучэнні ледавіковых валуноў пры Ін-це геахіміі і геафізікі АН Беларусі. На пл. каля 6 га сабрана каля 3 тыс. эталонных і рэдкіх ледавіковых валуноў антрапагенавага (чацвярцічнага) перыяду.

Умоўна згрупаваны ў 6 зон. Вял. колькасць археал. аб'ектаў у зоне «Камень у жыцці чалавека». Ёсць камяні з выбітымі на іх паверхні стараж. знакамі ў форме лука са стрэламі, крыжоў, сонца (з Лагойскага і Мядзельскага р-наў), следавікі (нібы з адбіткам стапы), валуны з надпісамі, слядамі апрацоўкі, каменныя жорны і інш. Культавыя камяні прадстаўлены валуном граніту (рапаківі), які раней знаходзіўся ў Мінску на беразе р. Свіслач і наз. «Стары», яму яшчэ ў пач. 20 ст. ахвяравалі мёд, малако, віно, вешалі рушнікі, тканіну. Прадстаўлены 2 крыжы, высечаныя з вял. глыб,— «Крыж Ст. Баторыя» з выявай каралеўскай кароны, воіна з мячом і шчытом, кругоў (з урочышча Каралёў Стан каля в. Сасновая Докшыцкага р-на) і крыж-ідал з в. Жары Вілейскага р-на. *Э. А. Ляўкоў.*

**МУЗЕ́Й ГІСТО́РЫІ БЕЛАРУ́СКАГА ДЗЯРЖА́ЎНАГА УНІВЕРСІТЭ́ТА.** Створаны ў 1924 як музей гісторыі першабытнай культуры і рэлігіі БДУ, з лютага 1940 гісторыка-археал. музей. Пасля Айчыннай вайны аднаўлены ў выніку стварэння новых фондаў. З 1977 называецца М. г. БДУ, працуе на грамадскіх пачатках. У археал. аддзеле музея каля 8 тыс. прадметаў, у т. л. каля 3 тыс. асн. фонду (1991).

У экспазіцыі знаходкі з палеалітычных стаянак *Бердыж, Юравічы* (вырабы з крэменю, косці маманта), з Красносельскіх шахтаў па здабычы крэменю, з раскопак гарадзішчаў, гарадоў Беларусі (Мінск, Орша, Копысь, Рагачоў і інш.). Мае пастаянна дзеючую выстаўку «Новыя адкрыцці археалагічнай экспедыцыі БДУ». У нумізматычным аддзеле больш за 6,5 тыс. экспанатаў, сістэматычная калекцыя манет 5-га тысячагоддзя да н. э.—17 ст., манетныя скарбы, знойдзеныя на тэр. рэспублікі, у т. л. *Вішчынскі грашова-рэчавы скарб*, знойдзены археал. экспедыцыяй БДУ.

**МУЗЕ́Й СТАРАЖЫТНАБЕЛАРУ́СКАЙ КУЛЬТУ́РЫ** Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі. Заснаваны ў Мінску ў 1977 на базе матэрыялаў, сабраных з 1969 мастацтвазнаўчымі і этнаграфічнымі экспедыцыямі ін-та, выяўленых археолагамі Ін-та гісторыі АН БССР. Адкрыты 15.5.1979. Пл. выставачных залаў больш за 600 $м^2$; 18 тыс. экспанатаў (1991), з іх 2500 у экспазіцыі па археалогіі, этнаграфіі, выяўленчым і дэкаратыўна-прыкладным мастацтве, кнігадрукаванні. Археал. калекцыя налічвае больш за 6 тыс. рэчаў.

Эпоха палеаліту прадстаўлена знаходкамі з *Бердыжа, Юравіч, Елісеевіч* (нажы, скрабкі, разцы па косці, упрыгожанні). Найб. старажытныя з іх выраблены паляўнічымі на мамантаў на Юравіцкай стаянцы 26 тыс. г. таму назад. Зберагаюцца матэрыялы эпох мезаліту і неаліту, у т. л. вялікая калекцыя вырабаў з рога і косці з паселішча *Камень*-8 — больш за 20 рыбалоўных кручкоў розных тыпаў, унікальны сэрцападобны амулет, падвескі з зубоў жывёл, трубачкі, вастры, наканечнікі, сякеры. На паселішчах *Асавец* і *Крывіна* знойдзены не толькі прылады працы, але і выявы чалавека, качак і інш., упрыгожанні з бурштыну. Захоўваюцца фрагменты вастрадонных гліняных гаршкоў, упрыгожаных складанымі геам. арнаментамі, найбольш стараж. металічная прылада працы Беларусі — медная чатырохгранная долатца з *Барысаўшчыны*. Разнастайныя рэчы гасп. і культавага прызначэння прадстаўлены ў матэрыялах культур шарападобных амфар, шнуравой керамікі, мілаградскай, зарубінецкай, днепра-дзвінскай, банцараўскай. Зберагаецца пахавальны інвентар з курганных могільнікаў крывічоў, дрыгавічоў, радзімічаў. Вытокі бел. культуры і мастацтва прасочваюцца ў матэрыялах раскопак стараж. гарадоў *Полацка, Копысі, Крычава, Навагрудка, Слоніма*. Экспануюцца знаходкі з *Лукомля, Ваўкавыска*, гарадзішча *Маскавічы*, унікальныя рэчы часоў Кіеўскай Русі, у т. л. касцяная лыжачка са знакам Рурыкавічаў з Юравіч, касцяныя графіці з Маскавіч, узбраенне конніка з Ваўкавыска. Зберагаецца калекцыя кафлі 15—20 ст.

*Літ.*: 809.

*А. А. Варатнікова, У. Ф. Ісаенка.*

**МУЗЫ́ЧНЫЯ ІНСТРУМЕ́НТЫ,** прылады, з дапамогай якіх здабываюцца рытмічна арганізаваныя і фіксаваныя па вышыні гукі і шумы, альбо дакладна рэгулюемыя рытмы. Ва Усх. Еўропе найб. старажытнымі лічацца рытмічна-ўдарныя прылады, выраблены з косці маманта. Такія М. і. знойдзены на палеалітычных паселішчах Мезіна Чарнігаўскай, Гарадок Ровенскай і Касцёнкі Варонежскай абл.

Да эпохі ранняга неаліту адносяцца 2 касцяныя флейты, выяўленыя ў воз. Сенніца на мяжы Віцебскай і Пскоўскай абл. На неалітычным паселішчы каля в. Асавец Бешанковіцкага р-на знойдзены фрагмент жалейкі (дудкі), зроблены з косці птушкі. Даўж. фрагментаў 5 см, сячэнне 10×7 мм, дыям. кожнай з трох ігравых адтулін 3 мм; адлегласць паміж адтулінамі 1,7 і 2,1 см. Галоўка інструмента са свістковым прыстасаваннем адсутнічала ці не захавалася. Пры раскопках паселішчаў позняга неаліту — ранняй бронзы каля в. Камень Пінскага р-на знойдзены 2 танкасценныя касцяныя трубачкі (магчыма, музычныя ражкі) і свісцёлкі. У перыяд позняй бронзы і ранняга жалеза на ПнЗ Беларусі пранiклі плямёны лужыцкай культуры, з якой звязаны знойдзеныя на тэр. Польшчы разнастайныя М. і.: гліняны свісток, які формай нагадвае рог тура, трашчоткі, састаўны інструмент з косці тыпу т. зв. флейты Пана. На гарадзішчы ранняга жал. веку каля в. Гарані Смаргонскага р-на выяўлена дудка-свісцёлка даўж. 71 мм, зробленая з косці птушкі. Верагодна, што паходжанне некаторых М. і., якімі карысталіся пастухі, адносіцца да глыбокай старажытнасці. Прамыя і доўгія драўляныя пастухоўскія трубы здаўна пашыраны на Беларусі, у Прыбалтыцы, Карпатах, Польшчы, Швецыі. Арэал распаўсюджання казіных ражкоў з ігравымі адтулінамі таксама абмежаваны тэр. Беларусі, усх. Прыбалтыкі, Фінляндыяй і Швецыяй. Музычныя трубы, згорнутыя з бяросты ці альховай кары, спрадвеку вядомы на тэр. Беларусі, Польшчы, у эстонцаў, латышоў, фінаў, карэлаў. Лічаць, што гэтыя прымітыўныя М. і. ўзніклі ў першабытныя часы, магчыма, у час існавання культуры шнуравой керамікі. Мяркуецца, што знойдзеная ў культурным пласце стараж. Ваўкавыска касцяная трубачка дыям. 11 мм з'яўляецца М. і. накшталт жалейкі. Дэталі стараж. струннага інструмента і некалькі фрагментаў званоў выяўлены ў Гродне пры даследаванні рэшткаў Ніжняй царквы 12 ст. Пры раскопках у Навагрудку знойдзена вухавёртка з выявай музыкі, што грае на трохструнным М. і., які нагадвае вертыкальна пастаўленыя гуслі. У Ваўкавыску выяўлена шахматная фігурка пешкі з барабанам. Пра высокі ўзровень развіцця музыкі на Беларусі ў сярэднія вякі сведчыць і такі факт, што абраны польскім каралём Ягайла ўзяў з сабой у Кракаў некаторых музыкаў з Беларусі. У канцы 15 — пач. 16 ст. прыдворнай капэлай вялікага кн. ВКЛ і караля Польшчы Аляксандра кіраваў вядомы бел. музыкант і спявак Чурыла. Вядома, што Чурыла часта спяваў на бел. мове пад акампанемент лютні.

*Літ.*: 397. *Э. М. Зайкоўскі.*

**МУ́РАВА,** група археал. помнікаў каля в. Мурава Бярэзінскага р-на.

Гарадзішча. Каля вёскі, на правым беразе р. Бярэзіна, ва ўрочышчы Замак, ці Пагулянка. Памер

пляцоўкі 47×50 м, выш. над поплавам больш за 25 м. З боку поля ўмацавана валам шыр. 15 м, выш. 5 м і ровам глыб. 5 м. Пашкоджана траншэямі і бліндажамі часоў Вял. Айчыннай вайны, зарасло хмызняком і дрэвамі. Абследаваў у 1928 А. Рынейскі. У 1963 даследаваў Л. Д. Побаль. Культурны пласт 0,4—0,5 м.

Знойдзена ляпная штрыхаваная і гладкасценная кераміка мілаградскай, ранняга этапа зарубінецкай, быхаўска-калочынскай культур, гліняныя праслíцы, шлакі, абпаленае каменне.

Курганны могільнік. За 2,5 км на З ад вёскі, каля лесу. Вядомы з канца 19 ст. Даследавалі ў



Мурмельшпіль са Слуцка.

1929 І. Р. Калодкін і М. М. Канвісараў, 12 насыпаў у 1930 А. М. Ляўданскі. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў грунце, у асобных выпадках на папялішчы галавой на З. Знойдзены бронзавыя жаночыя скроневыя кольцы, шкляныя і адна філігранная пацеркі, абломкі ганчарнага посуду. Захаваўся 21 насып выш. 1,3—1,5 м, дыям. 8—12 м. Могільнік належаў крывічам. Датуецца 10—12 ст.

Курган. За 1 км на Пд ад вёскі, за 200 м злева ад дарогі ў в. Уша, у лесе. Выш. 1,7 м, дыям. 5—6 м. Выявіла і абследавала ў 1983 Т. С. Бубенька.

*Літ.*: 330, 718, 723, 1024.

*Т. С. Бубенька, Л. Д. Побаль.*

**МУ́РМЕЛЬШПІЛЬ** (ням. Murmelspiel), гліняныя або каменныя шарыкі для гульні ў каменьчыкі. Трапляюцца пры раскопках замкаў і гарадоў у пластах 16—17 ст. На Віцебскім Верхнім замку і ў Слуцку іх знойдзена больш за 20. Віцебскія М. выраблялі з тлустай гліны або вапняку (дыям. 9—30 мм, вага 0,7—26,5 г), слуцкія — з чырвонай і шэрай гліны (дыям. 1,9—2,6 мм, вага 4,7—13,75 г). М. знойдзены пры раскопках у Мінску, Дзісне, Друсвятах, Крычаве, Чачэрску і шэрагу інш. бел. гарадоў; вядомы па раскопках Рыгі і замкаў Прыбалтыкі.

*Л. У. Калядзінскі.*

**МУРО́ЎКА,** размяшчэнне камянёў, блокаў, цэглы ў пэўнай сістэме, што выяўляецца малюнкам швоў на паверхні сцяны. Удасканаленне тэхнікі М., выкарыстанне розных тыпаў цэглы, сістэма перавязкі цаглін паміж сабой адлюстроўваюць узровень развіцця будаўніцтва і даюць магчымасць стварыць дакладную шкалу для датавання помніка архітэктуры. Малюнак М. неатынкаваных фасадаў з'яўляецца асн. фактарам паліхроміі ў манументальным дойлідстве. Для архіт.-буд. практыкі пэўнай эпохі і рэгіёна ўласцівы асобныя сістэмы М.

На Беларусі існавалі 3 асн. групы М.: ся толькі дэкаратыўная функцыя такой М. У тэхніцы каменнай М. (opus incertum) будаваўся Мінскі храм (12 ст.). Яго сцены ўсярэдзіне выкладалі камянямі, а вонкавую паверхню абкладалі невял. прамавугольнымі блокамі вапняку. У тэхніцы дэкаратыўнай мяшанай М. пабудавана *Віцебская царква Звеставання* (12 ст.). Яе сцены мелі радавую М.: 1 рад абчасанага вапняку, 2 рады плінфы і г. д. Знадворку сцены былі апрацаваны тонкім слоем тынкоўкі і падзелены белымі вапнавымі палоскамі (шыр. каля 1,5 см) на русты адпаведна памерам часанага вапняку. Для *Гродзенскай архітэктурнай школы*




**Муроўка:** opus mixtum (1); opus incertum (2); са «схаваным радам» (3); дэкаратыўная мяшаная (4), дэкаратыўная раўнарадавая (5); раўнарадавая (6); лусковая (7); балтыйская (8); grand appareil (9); мяшаныя (10—11); гатычная (12); рэнесансавая (13); крыжовая (14); галандская (15); старчаковая (16); дэкаратыўная гатычная (17); «разынкавая» (18).

мяшаная (з камянёў і цэглы), цагляная і каменная (з валуноў ці абчасаных блокаў). Першае на Беларусі збудаванне ў тэхніцы мяшанай М. (opus mixtum) — *Полацкі Сафійскі сабор* (11 ст.). Пластыку фасадаў узбагачала чаргаванне радоў палявых камянёў са слаямі *плінфы*, якая звязвала канструкцыю М. Такая сістэма перавязкі плінфы атрымала назву М. са «схаваным радам». Была характэрна для *Полацкай архітэктурнай школы*. У 12 ст. плінфа набывае прамавугольную форму, патрэба заглыбляць рады плінфы знікла. Засталася (12 ст.) характэрна дэкаратыўная раўнарадавая М., акрамя плінфы вонкавую паверхню сцен аздаблялі рознакаляровыя шліфаваныя камяні, паліваныя місы (Ніжняя царква) і плíткі, з якіх выкладваліся розныя крыжападобныя фігуры. У інтэр'еры сцены мелі роўную паверхню з плінфы, на іх фоне вылучаліся круглыя гарлавіны галаснікоў. *Тураўская царква* 12 ст. пабудавана ў тэхніцы раўнарадавай М. (у літаратуры наз. кіеўскай). У 13—16 ст., а ў абарончым дойлідстве да сярэдзіны 17 ст. для ўзвядзення асн. муроў выкарыстоўва-

ласся лусковая (двухпанцырная) М., калі з цэглы ці спецыяльна падабраных камянёў выкладалі вонкавыя паверхні сцен, а прамежкі паміж імі забутоўвалі кавалкамі цэглы і дробным каменнем (*Камянецкая вежа, Гальшанскі замак*). Для 2-й пал. 13 — сярэдзіны 14 ст. характэрна цагляная балтыйская ці вендская М. з чаргаваннем 2—3 лажкоў і тычка цэглы (*Крэўскі замак*). У 1-й пал. 14 ст. існавала каменная М. (grand appareil, *Лідскі замак*). У 16—17 ст. выкарыстоўвалі 2 тыпы мяшанай М.: чаргаванне суцэльных радоў камянёў і цэглы і хаатычна раскіданыя валуны па складзенай з цэглы паверхні (*Гродзенскі Стары замак, Мірскі замак*). З сярэдзіны 14 ст. да сярэдзіны 16 ст. пераважала цагляная гатычная М. з чаргаваннем у радзе тычка і лажка (Сынковіцкая царква-крэпасць). З 15 ст. пашырылася дэкаратыўная гатычная М., дзе выкарыстоўвалася перапаленая цэгла-клінкер (цёмна-сіняга, амаль чорнага колеру), з якой выкладвалі розныя ўзоры, найчасцей у выглядзе рамбічнай сеткі (Ішкалдскі Троіцкі касцёл, Супрасльская царква). У 2-й пал. 16 ст. з'явілася рэнесансавая М.— чаргаванне радоў цэглы з тычкоў і лажкоў. У 16—17 ст. выкарыстоўваўся крыжовы варыянт рэнесансавай М., калі швы стыкаў лажкоў знаходзіліся адзін над адным у кожным пятым радзе цэглы (Заслаўская Спаса-Праабражэнская царква). У 17—18 ст. вядома таксама галандская М., у якой рады з тычкоў чаргуюцца з радамі, дзе тычок чаргуецца з лажком (замак у Смалянах, Мсціслаўскі касцёл і калегіум езуітаў). У фартыфікацыйным будаўніцтве 16—18 ст. выкарыстоўвалася тычковая М. (Муравапкаўская царква-крэпасць). З 2-й пал. 16 ст. фасады будынкаў атынкоўвалі, што прывяло ў 17 ст. да адраджэння раўнарадавай М., дзе няма ніякай паслядоўнасці ў чаргаванні тычкоў і лажкоў. Усе помнікі магілёўскай архіт. школы 2-й пал. 17 ст. маюць такую М. Узнаўленне розных тыпаў М. назіраецца ў 19 — пач. 20 ст., асабліва ў архітэктуры рамантызму, псеўда- і неаготыкі, мадэрна. У гэты час найб. пашырана гатычная М. Яе рабілі на цэментавым растворы з фугоўкай швоў. Для архітэктуры невял. капліц, касцёлаў, цэркваў, мураваных агароджаў, гасп. пабудоў характэрна т. зв. «разынкавая» М., калі вял. камяні абмазвалі вапнай і ў яе ўтыкалі дробныя каменьчыкі, здалёк падобныя на разынкі, часам з іх выкладвалі розныя ўзоры.

*Літ.*: 859, 1225. *А. А. Трусаў.*

**МУСЦЬЕ́,** археал. эпоха каменнага веку ў межах 70—32 тыс. г. да н. э. (сярэдні палеаліт). Назва ад стаянкі Ле-Мусцье на ПнЗ Францыі. Насельніцтва М.— неандэртальцы — займалася збіральніцтвам і паляваннем, жыло ў прыродных пячорах, будавала прымітыўныя жытлы. У эпоху М. знойдзены спосаб здабывання агню. Для М. характэрны каменныя прылады працы.

У аснове мусцьерскай першапачатковай тэхнікі апрацоўкі каменю ляжаў дыскападобны *нуклеус* (ядрышча), ад якога сколвалі шырокія адшчэпы і рабілі з іх *скрэблы, востраканечнікі* трохвугольнай формы. Былі распаўсюджаны таксама ручныя *рубілы*. Крамянёвы інвентар мусцьерскага тыпу сустракаецца амаль ва ўсіх частках Еўразіі і Паўн. Афрыкі. На Беларусі на верхнепалеалітычных помніках знойдзены скрэблы мусцьерскага тыпу ў *Абідавічах, Свяцілавічах*, адшчэпы з мусцьерскай тэхнікай сколу — у *Клеявічах, Падлужжы*. У Падлужжы знойдзены таксама востраканечнік і 2 дыскападобныя ядрышчы. Гэтыя і падобныя знаходкі сведчаць пра тое, што ў часы эпохі М. першабытны чалавек мог засяляць тэр. Беларусі.

*Літ.*: 149, 861, 919. *У. П. Ксяндзоў.*

**МУСЯНО́ВІЧ** (Musianowicz) Крысціна (н. 13.4.1908, Львоў), польскі археолаг. Магістр (1934), д-р археалогіі (1939). Супрацоўнік Дзярж. археал. музея ў Варшаве (да 1977). Вывучае сярэдневяковую гісторыю зах. і ўсх. славян. Выказала думку, што зах. мяжа рассялення дрыгавічоў не абмяжоўвалася Выганашчанскім балотам, а пераходзіла Зах. Буг, што каменныя курганы Сярэдняга Пабужжа належалі дрыгавічам. Лічыць неабгрунтаваным меркаванне пра значнае пашырэнне доўгіх курганоў у Панямонні. У 1953—57 вяла раскопкі ў Драгічыне Надбужскім Беластоцкага ваяводства, вызначыла спецыфіку яго матэрыяльнай культуры як слав. горада з поліэтнічным насельніцтвам (дрыгавічы, валыняне, мазаўшане), лічыць яго цэнтрам акругі на ўсх.-слав. (старажытнарускім) і мазавецкім парубежжы (а не сталіцай Яцвязі).

*Тв.*: Z zagadnień osadnictwa wczesnohistorycznego pow. Sokołów Podlaski // Wiadomości archeologiczne. 1950—51. T. 17, z. 4; Drohiczyn od VI do XIII wieku: Dzieje i kultura. Białystok, 1982.

*Г. В. Штыхаў.*

**МЫСЛІ,** гарадзішча *штрыхаванай керамікі культуры* каля в. Мыслі Капыльскага р-на. За 800 м на ПдУ ад вёскі, на правым беразе р. Выня ва ўрочышчы Гарадок. Пляцоўка прамавугольная, памер 60×40 м, з трох бакоў умацавана валам выш. да 3 м і ровам. У цэнтр. частцы пляцоўкі паўсферычны насып выш. да 0,6 м. З паўн. боку пляцоўка абмежавана абрывам да б. рэчышча Выні, якая цяпер працякае па каналізаваным рускле. У час правядзення меліярацыі ў 1970-я г. пляцоўка пашкоджана глыбокай траншэяй. У 1979



Крамянёвы наканечнік стралы з гарадзішча Мыслі.



Жалезныя нажніцы і сярпы з гарадзішча Мыслі.



Фігурка сабакі з абпаленай гліны з гарадзішча Мыслі.



Бронзавыя ўпрыгожанні з гарадзішча Мыслі.

1986—89 М. Ф. Гурын даследаваў 891 м$^2$. Выяўлена 8 паўзямлянак, размешчаных пераважна на паўн. ускрайку гарадзішча, 20 слупавых ям дыям. 0,5—0,95 м, глыб. да 1,2 м. У куце адной з зямлянак выяўлены развал ачага з каменя. Даследаванне паўзямлянкавых пабудоў дае падставу меркаваць пра ўплыў плямён кіеўскай культуры.

Знойдзены фрагменты ляпной гладкасценнай і штрыхаванай керамікі: пасудзіны розных памераў і форм (ад буйных гаршкоў да мініяцюрных «шклянак»), чарапкі глянцаванага посуду, гліняныя праслiцы (437 экз.), грузікі дзякоўскага тыпу, фігурка сабакі. Знойдзены вырабы з жалеза (нажы, сярпы, абломкі ляза сякер, спружынныя нажніцы, прабойнік, позналатэнская фібула, іголка, кіяпадобныя шпількі, стрыжні і фрагменты розных прылад працы, бытавых і гасп. прадметаў, кавалкі металургічнага шлаку), з бронзы (акулярападобныя і трапецападобныя падвескі, кольцы, спіралі, бляшкі, трохабаротныя бранзалеты, фрагменты рэчаў, паўфабрыкатаў у выглядзе дроту, абломкі тыгляў), з крэменю (пласціны, адшчэпы, двухшыпны наканечнік стралы), з косці (фрагмент іголкі з вушкам і інш.), са шкла (пацеркі імпартныя), а таксама каменныя зерняцёркі, гарэлае зерне проса. Астэалагічны матэрыял, даследаваны В. В. Шчагловай, сведчыць, што жыхары гарадзішча займаліся развядзеннем коней, буйной і дробнай рагатай жывёлы, свіней, сабак, палявалі на дзікоў, казуль, ласёў, баброў.

Гарадзішча датуецца 1—4 ст. н. э.

*Літ.*: 279, 281. *М. Ф. Гурын.*

**МЯДЗВЕ́ДЗЕЎ** Аляксандр Міхайлавіч (н. 7.2.1960, Мінск), беларускі археолаг. Канд. гіст. навук (1991). Скончыў БДУ (1984). З 1980 працуе ў Ін-це гісторыі АН Беларусі. Даследуе праблемы жал. веку на Беларусі. Вывучае паходжанне і развіццё насельніцтва культур штрыхаванай керамікі і ўсходнелітоўскіх курганоў на Бел. Панямонні. Праводзіў археал. раскопкі на гарадзішчах *Кашчэлічы* Валожынскага р-на, *Гарадзішча* Баранавіцкага р-на, археал. разведкі ў Брэсцкай, Гродзенскай і Мінскай абл.

*Тв.:* К вопросу о происхождении восточнолитовских курганов // Хозяйство и культура доклассовых и раннеклассовых обществ: Тез. докл. III конф. молодых археологов Ин-та археологии АН СССР. М., 1986; К вопросу об участии ятвягов в формировании культуры восточнолитовских курганов // Vakarų baltu archeologija ir istorija. Klaipėda, 1989. *М. М. Чарняўскі.*

**МЯ́ДЗЕЛ,** гарадскі пасёлак, цэнтр Мядзельскага р-на, паміж азёрамі Мястра і Баторын. За 140 км на ПнЗ ад Мінска, 31 км ад чыг. ст. Княгініна на лініі Маладзечна — Полацк, на дарозе Мінск — Нарач.

Старажытны М. (Мядзела, Мядзюль, Мядзнол) узнік у 10 ст. як парубежнае ўмацаванне Полацкай зямлі. Размяшчаўся на цяжкадаступным востраве Замак воз. Мядзел (відаць, ад літ. medinis лясны, драўляны). Першапачатковае гарадзішча М. мела авальную форму (70×52 м), усх. край яго пляцоўкі ўзвышаўся над возерам на 10 м. Падковападобны гліняны вал на У дасягае выш. 5 м і адсутнічае з З. Яго ўнутраны і знешні схілы абкладзены камянямі-валунамі. Даследаваў 20 м$^2$ у 1970 і 1981 М. А. Ткачоў. Культурны пласт 0,6—2,43 м, складаецца з некалькіх гарызонтаў. Верхні гарызонт шараватага колеру, насычаны дробнымі каменьчыкамі, кавалкамі абмазкі, вуголлем, касцямі дзікай і свойскай жывёлы, луской рыбы. Сярэдні пласт з белаватай, чырвонай, а пад імі гумусаванай шэрай гліны. Самы нізкі гарызонт



А. М. **Мядзведзеў.**

інтэнсіўна чорнага колеру, мае матэрыялы 10—13 ст. Нягледзячы на значную таўшчыню, культурны пласт слаба насычаны знаходкамі.

Выяўлены фрагменты керамікі 10 ст., абломкі пасудзін 11 ст. са слабаакрэсленым карнізікам, дробным і частым рыфленнем. Кераміка 12—13 ст. слабапрафіляваная, з арнаментаў пераважаюць рыфленыя шматразовыя хвалі; ёсць арнамент, зроблены грабянцом, узоры-штампы, пазногцевыя ўціскáнні, нажавыя насечкі пад шыйкай і над венчыкам. Сярод інш. матэрыялаў шыферныя праслiцы, тачыльныя брускі, жал. нажы, касцяная пласцінка з цыркульным арнаментам, абломкі каменных жорнаў, кавалкі жал. шлаку, косці жывёл, птушак, рыб.

Невял. колькасць керамікі 14—15 ст. пацвярджае меркаванне даследчыкаў, што жыццё на гарадзішчы спынілася менавіта ў гэты час. У выніку шурфоўкі на вяршыні вала на глыб. 0,5 м выяўлены рэшткі апаленых драўляных канструкцый. У насыпе вала зафіксаваны сляды 3 пажараў, якія на працягу 12 — пач. 15 ст. знішчалі драўляныя ўмацаванні паселішча. Вал пашкоджаны таксама акопамі 1-й сусветнай вайны. Стромкія схілы паселішча надзейна засцерагалі жыхароў ад раптоўных нападаў. Драўляныя абарончыя канструкцыі на вяршыні вала закрывалі пляцоўку ад прамога пападання стрэл праціўніка.

Першая пісьмовая згадка пра М. зафіксавана 22.9.1324 у пасланні вял. кн. Гедзіміна епіскапам Дэрпцкаму, Эзельскаму, Дацкаму намесніку Рэвельскай зямлі і радзе г. Рыга. Дакумент паведамляе, што крыжакі Тэўтонскага ордэна парушылі мір, а «... таксама яны бадай што захапілі б наш замак Мядзела, калі б ён не быў так добра ўмацаваны, аднак яны забілі мноства людзей, а іншых з сабой павялі». Пад сценамі ўмацавання, каля падножжа замкавай гары размяшчалася селішча 11—13 ст. плошчай больш за 1,5 га. Выявіў і даследаваў 20 м$^2$ у 1981 Ткачоў. Культурны пласт каля 0,5 м. Знойдзена невял. колькасць фрагментаў гаршкоў 11—12 ст., шмат керамікі 13 ст., тачыльны брусок, бронзавая спражка з язычком 13 ст. і інш. У 1-й пал. 15 ст. паселішча перанесена з вострава Замак воз. Мядзел на паўн. бераг воз. Мястра. Гэты М. вядомы па пісьмовых крыніцах з 1454 як населены пункт Віленскага ваяводства. Яго даследавалі ў 1982 М. М. Чарняўскі і З. С. Пазняк. Ускрыта 18 м$^2$ пл. каля царквы сярэдзіны 18 ст. Выяўлена кераміка 15—16 ст., а таксама масіўны каменны фундамент і фрагмент мuроўкі з цэглы-пальчаткі, якія, відаць, з'яўляюцца рэшткамі касцёла, вядомага па дакументах 1457.

У 15—1-й чвэрці 16 ст. М. з акругай і паселішчам Кабыльнікі належалі кн. Свірскім. 11.4.1527 А. М. Свірскі і яго жонка Соф'я прадалі «добры свае дзедзічныя Мядзела і Кабыльнікі» віленскаму ваяводу Гаштольду і яго нашчадкам за 300 коп «вечным правам». Аднак па невядомых прычынах гэта здзелка, верагодна, была скасавана, бо 28.5.1533 кн. Войцах і Андрэй Юхнавічы Свірскія прадалі М. навечна за 400 коп грошаў літоўскіх О. М. Гаштольду, графу з Геранён Мураваных. У сувязі з закладкай на востраве воз. Мястра *Мядзельскага замка* адм. цэнтр М. перамясціўся ў 17 ст. на ўсх. бераг возера. Тут узнік Новы М., умацаваны абарончым валам і ровам. У час рус.-літ. вайны 1512—22 М. быў разбураны ў 1519. Ранейшае паселішча працягвала існаваць, але за ім замацавалася назва Стары М. Чарговыя разбурэнні М. прыпадаюць на часы рус.-польскай (1654—67) і Паўночнай (1700—21) войнаў. Тэрыторыю Новага М. даследавалі ў 1981 Ткачоў, у 1982 Чарняўскі і Пазняк. Шурфоўкай у раёне старога цэнтра (сучасная пл. Свабоды з прылеглымі вуліцамі) выяўлены культурны пласт 0,3—0,8 м, моцна перамяшаны і насычаны бітай цэглай. Знойдзена кераміка 16—18 ст., манеты 17—18 ст. Прарэзка вала паказала, што ён насыпаны з суглінку, шыр. да 8 м у аснове і выш. каля 1—1,5 м. З 1736 М.— мястэчка, дзе былі дазволены кірмашы; з 1762 мела магдэбургскае права, тут адбываліся 4 кірмашы штогод. У 18 ст. М. валодалі Радзівілы, Францкевічы, Райскія, Грабкоўскія, Кошчыцы. У 1754 уладальнік

мястэчка А. Кошчыц пабудаваў у Старым М. Ставіславаўскі касцёл кармелітаў з плябаніяй і кляштар. З пач. 17 ст. да 1775 у Новым М. адбываліся земскія суды, з 1661 — сеймікі. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) Стары і Новы М. у Расійскай імперыі.

*Літ.:* 46, 836, 1195, 1200, 1306.

*М. А. Ткачоў.*

**МЯДЗЕЛЬСКАЕ СЕ́ЛІШЧА,** археал. помнік 10—17 ст. Ва ўсх. частцы вострава Замак воз. Мястра ў Мядзельскім р-не. Пл. больш за 2 га. Выявіў у 1979 М. М. Чарняўскі, даследавалі ў 1981 М. А. Ткачоў, у 1985 Я. Г. Звяруга. Ускрыта 88 м². Культурны пласт 0,4—0,6 м. Выяўлены рэшткі печаў-каменак, на мацерыку — сляды неалітычнай стаянкі (агнішчы, крамянёвыя нажападобныя пласціны і наканечнікі стрэл, ляпная кераміка, косці жывёл).

Сярод знаходак 10—13 ст. ганчарная кераміка, жал. нажы, дужка ад вядра, кавалкі жал. шлаку, косці жывёл; 14 — 17 ст.— посуд, гаршковая кафля, цвікі, інш. жал. вырабы.

*Літ.:* 1195.

*М. А. Ткачоў.*

**МЯДЗЕЛЬСКІ ЗА́МАК.** Існаваў у 15 — пач. 18 ст. Размяшчаўся на востраве Замак воз. Мястра. Займаў пляцоўку гарадзішча. Складаўся з мураваных вежы і палаца, а таксама знешняга абарончага комплексу (захаваліся руіны). Круглая ў плане вежа-данжон адкрыта ў 1981 археал. экспедыцыяй Гродзенскага ун-та. Яе знешні дыям. 17,5 м, унутраны — 10 м, таўшч. сцен каля 3,5 м. Падмурак вежы, які адначасова выконваў ролю цокальнага паверха, заглыблены ў зямлю на 3,75 м, складзены ў тэхніцы паласатай *мyроўкі* з радоў валуноў і буйнапамернай цэглы на вапнавым растворы. Забутоўка сцен зроблена з бітай цэглы. Падмурак вежы пакладзены на вапнавую падушку таўшч. 10—14 см. На выш. 1,05 м ад падушкі падмурак мае цокаль-ступеньку шыр. 0,3 м, на якім знойдзена кельма 15 ст. Ва ўсх. частцы вежы размешчаны праём светлавога люка (1,23×1,75 м), перакрыты аркай. Ён меў ступеньчаты ўхіл унутр вежы. У зах. частцы расчышчаны праход (1,5×2 м) з 5 сходамі ў падвальнае памяшканне. Відаць, у 2-й пал. 16 ст. ён быў замураваны. Ад дзвярэй уцалелі толькі крукі, на якія на завесах навешвалася дзвярное палотнішча. Сценкі праходу складзены з цэглы ў тэхніцы гатычнай муроўкі. Падвал вежы, верагодна, меў перакрыцце на бэльках. Асн. масіў вежавай сцяны, ад якой захаваліся фрагменты выш. каля 1,5 м, быў узведзены на вапне ў тэхніцы лусковай муроўкі з буйнапамернай цэглы (29,8—31,7 × 11—19,3×6,7—10,1 см). Паводле малюнка з карты ВКЛ (1613) Т. Макоўскага, вежа мела некалькі (верагодна, 5) ярусаў і дасягала выш. 30 м. Па сваіх параметрах яна была блізкая да *Камянецкай вежы.* Пры расчыстцы падвала знойдзена кераміка 15—17 ст., у т. л. белагліняная (польскі імпарт), паліхромная кафля з разнастайнымі сюжэтнымі малюнкамі, грош 1535 г., трохшыпавыя салдацкія падкоўкі пад абцасы, фрагмент жал. завесы ад аканіцы, цвікі, шылы, дзвярныя кручкі і інш. Адсутнасць рэшткаў дахоўкі дае падставу меркаваць, што вежа М. з. была накрыта гонтай ці бляхай. У 1-й пал. 16 ст. да вежы з З прыбудаваны прамавугольны ў плане палац, руіны якога ўскрыты часткова. Ён быў узведзены з цэглы (27,4—30,6×11,5—15,5×7,1—9,4 см), меў сцены таўшч. каля 2 м і шыр. 10 м, падвалы глыб. 3 м, перакрытыя скляпеннем. Даўжыня палаца канчаткова не вызначана. На Пд ад вежы ўскрыта 120 м² пл. Культурны пласт таўшч. 0,2—0,7 м, шэрага колеру з украпінамі гліны, месцамі перамяшаны разворваннем. Выяўлены матэрыялы часоў Кіеўскай Русі (ганчарная кераміка 11—13 ст., нажы, косці дзікай і свойскай жывёлы, луска і косці рыбы) і ВКЛ (кераміка 14—17 ст., у т. л. белагліняная паліваная і паліхромная кафля з раслiннымі, геам. і сюжэтнымі малюнкамі, жал. вырабы, манеты 16—17 ст.). Пляцоўка М. з. абведзена традыцыйным для сярэдневяковай Беларусі мурам з валуноў на вапне. Ніжняя зона падмурка складзена на гліне, самы ніжні рад камянёў — на дубовых плахах. З усх. боку поля таўшч. замкавых муроў 2 м, з інш. бакоў, прыкрытых возерам,— 1,5—1,7 м. Асн. ўпор у абароне замка рабіўся на 5 мураваных паўкруглых бастэй, разлічаных, відаць, на размяшчэнне тут гармат для стральбы ўздоўж сцен. Бастэі М. з. лічацца самымі ранні на Беларусі і папярэднічаюць бастыёнам. У паўд.-ўсх. куце замка выяўлены падмурак цыліндрычнай вежы дыям. 10 м і сцены двухметровай таўшчыні. Паводле малюнка Макоўскага, усяго ў М. з. было 3 вежы. На замкавым дзядзінцы стаялі гасп. пабудовы, жылыя дамы служак з кафлянымі печамі. У 17 ст. М. з. дадаткова ўмацаваны ніжнім поясам абароны — земляным валам з бастыёнамі і ровам, які запаўняўся вадой з возера. Бастыёны і вал адсутнічалі толькі з усх. боку, дзе да замка блізка падступала воз. Мястра. Сувязь з берагам ажыццяўлялася па драўляным мосце на палях даўж. каля 400 м. Гіст. крыніцы сведчаць, што ў 1564 у арсенале М. з., акрамя ручной агнястрэльнай зброі, былі 2 сярэднія фальканеты і 2 серпянціны. М. з.— прыклад спалучэння асаблівасцей зах.-еўрап. фартыфікацыі з мясц. абарончымі элементамі. У час ваеннай небяспекі замак служыў надзейным сховішчам для жыхароў Мядзела і ваколіц. М. з. разбураны ў час Паўн. вайны 1700—21.

*Літ.:* 1195, 1200.

*М. А. Ткачоў.*

**МЯДЗЕЛЬСКІ МУЗЕ́Й НАРО́ДНАЙ СЛА́ВЫ.** Адкрыты ў 1969. Пл. экспазіцыі 150 м², 20,8 тыс. экспанатаў асн. фонду, у т. л. 6,3 тыс. археал. матэрыялаў (1991). Прадстаўлены знаходкі са стаянак, паселішчаў, гарадзішчаў, курганных могільнікаў Мядзельскага р-на (*Кусеўшчына, Мікольцы, Гарадзішча, Наўры, Засвір, Навасёлкі* і інш.): крамянёвыя прылады працы (скрабкі, скоблі, праколкі, нажы), фрагменты пасудзін (грабеньчата-ямкавая, штрыхаваная, порыстая кераміка), жал. нажы, сярпы, іголкі, наканечнікі коп'яў, стрэл, гліняныя грузікі, бронзавая дэталь конскай збруі, шкляныя пацеркі, фрагменты шкляных келіхаў, разнастайная паліхромная кафля і інш. У нумізматычнай калекцыі каля 500 манет ВКЛ, Рус. дзяржавы і інш.

*З. М. Мацюшонак.*

**МЯЖА́,** археал. помнікі каля в. Мяжа Гарадоцкага р-на.

П а с е л і ш ч а. На мысе, утвораным р. Ловаць, што выцякае з воз. Мяжа. Выш. над узроўнем вады 6—9 м. Выявіў і даследаваў 126 м² у 1969 І. М. Ціханенка. Культурны пласт да 0,2 м.

Знойдзены скрабкі, скрэблы, адшчэпы з рэтушшу, 20 нажападобных пласцін і іх фрагменты, больш за 20 разцоў (з іх большасць вуглавыя: 2 двайныя, 3 сярэдзінна-вуглавыя, 1 бакавы), рэтушаваны абломак наканечніка стралы, 80 фрагментаў гладкасценнай керамікі з арганічнай дамешкай у цесце, прамымі або злёгку адагнутымі вонкі венчыкамі (у аднаго коса зрэзаны ўнутраны край). Большасць фрагментаў без арнаменту, частка ўпрыгожана тычковымі і пазногцепадобнымі паглыбленнямі, адбіткамі палачкі і лапаткі, ямкамі, насечкамі, адбіткамі грабянцовага штампа, шнура, прачэрчанымі лініямі. Большасць фрагментаў керамікі адносіцца да трэцяй групы керамікі *Бабінавіцкага тыпу помнікаў,* фрагмент з жарствой у цесце і прачэрчанымі лініямі на паверхні — да 1-й групы, фрагмент са шнуравым арнаментам — да позняга неаліту.

Датуецца 3-м тысячагоддзем да н. э.

М о г і л ь н і к-1. За 500 м на ПнУ ад вёскі, каля дарогі на в. Лялеўшчына. 5 курганоў дыям. 6—8 м, выш. 1—2 м. У 1963 К. П. Шут даследаваў 1 курган. Выяўлена попельна-вугальная праслойка, знойдзены жал. нож. У 1972 абследаваў Г. В. Штыхаў.

М о г і л ь н і к-2. За 900 м на Пн ад вёскі, на левым беразе р. Ловаць, каля маслазавода. 5 курганоў выш. каля 4 м, дыям. 14 м. Выявіў у 1963 Шут, абследаваў у 1972 Штыхаў.

*Э. М. Зайкоўскі, Г. В. Штыхаў.*

**МЯЦЯ́ВІЧЫ,** археал. помнікі ранняга сярэднявечча каля в. Мяцявічы Салігорскага р-на.

Курганны могільнік-1. За 1 км на ПдУ ад вёскі, на левым беразе р. Случ. 19 насыпаў выш. 1,5—2 м, дыям. 10 м. Адзін курган выш. 2,5 м, дыям. 12 м, другі адпаведна — 5 м і 30 м, трэці — 3 м і 20 м. Каля асновы прасочваюцца раўкі. 3 курганы моцна пашкоджаны, 4 маюць у верхняй частцы западзіны. Даследавалі ў 1929 А. М. Ляўданскі і С. А. Дубінскі, раскапана 27 насыпаў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на грунце, адно ў яме, трапляюцца ў трунах; у двух курганах па 3 пахаванні, у двух — па 4. Каля ног нябожчыкаў (зрэдку каля галавы) стаялі цэлыя вял. гаршкі.

Знойдзены філігранныя буйназярнёныя цыліндрычныя і бочачкападобныя пацеркі, малыя скроневыя кольцы, бранзалет з канцамі ў выглядзе галоўкі змяі, пласціністыя і драцяныя пярсцёнкі.

Належаў дрыгавічам. Датуецца 11—12 ст.

Курганны могільнік-2. За 1 км на ПдУ ад вёскі, на левым беразе р. Случ. 21 насып дыям. 8—9 м, выш. 1,5 м. Вылучаюцца 2 курганы, размешчаныя ў паўд. частцы могільніка, выш. 3 і 4 м, дыям. 15 і 20 м. У адзін з іх урэзаны сучасныя магілы. Даследавалі ў 1929 Ляўданскі і Дубінскі, якія раскапалі 13 курганоў. Абследаваў у 1979 У. Ф. Ісаенка. Належаў дрыгавічам. Датуецца 12—13 ст.

*Літ.:* 330. *У. Ф. Ісаенка.*

# Н

**НАВАГРУ́ДАК,** горад, цэнтр Навагрудскага р-на. За 162 км на У ад Гродна, 24 км ад чыг. ст. Наваельня на лініі Ліда — Баранавічы.

Археалагічнае вывучэнне Н. ажыццяўлялі ў 1950—80-я г. Ф. Д. Гурэвіч, М. К. Каргер, П. А. Рапапорт, М. А. Ткачоў, М. У. Малеўская-Малевіч, К. В. Паўлава, А. К. Краўцэвіч.

Дзядзінец стараж. Н. размешчаны на т. зв. Замкавай гары на паўн. ускраіне сучаснага горада, мае форму, блізкую да трапецыі. Памеры з Пн на Пд 75 м, з У на З — 100 м. Абкружаны валам выш. каля 6 м, шыр. каля асновы 25—27 м, на грэбені 4—5 м, які з тыльнага боку і часткова звонку абкладзены камянямі, і ровам глыб. 10 м, шыр. 10—12 м. У 1924 падчас земляных работ было знята каля 2 м верхняй часткі культурнага пласта. Архітэктары Р. Гюртлер, Ю. Рэмер, А. Шышка-Богуш у час работ вывучалі і кансервавалі рэшткі замка. Адкрыты руіны 3 вежаў і расчышчана каменная абкладка вала. Было закладзена 6 раскопаў і траншэй, некаторыя глыб. да 3,2 м. Знойдзены 24 манеты 14—17 ст., 24 каменныя ядры розных памераў, профільная цэгла. Экспедыцыяй Ленінградскага аддзялення Ін-та гісторыі АН СССР пад кіраўніцтвам Гурэвіч у 1957—77 ускрыта каля 1000 м². Малеўская-Малевіч даследавала помнікі мураванага дойлідства 14 ст.: *Навагрудскую царкву* і *Навагрудскі палац.* У 1969—70 замкавыя ўмацаванні вывучаў Ткачоў. Культурны пласт на дзядзінцы да 5 м. Верхні гарызонт складаецца з камення, друзу, цэглы і інш. будаўнічага смецця з развалу познасярэдневяковага замка. У ім знойдзена вял. колькасць керамікі 14—16 ст. (гаршкі, міскі і інш.), кафля, каменныя ядры (часам вял. колькасць), цвікі. На глыб. каля 1,5 м ускрыты рэшткі наземных жылых пабудоў 12—13 ст. Яны ляжаць на слаі пяску таўшч. 1 м. Пад пяском прасочаны культурны пласт магутнасцю да 0,6 м са знаходкамі канца 10—11 ст. Устаноўлена, што першае паселішча на Замкавай гары ўзнікла на мяжы 10—11 ст. (пазней, чым на вакольным горадзе). Засн. ўсходнімі славянамі, напачатку было неўмацаванае. У 2-й пал. 11 ст. паселішча ўмацавана і стала дзядзінцам. Да сярэдзіны 13 ст. на валах былі драўляныя сцены. У 2-й пал. 13 ст. замест вастраколу пастаўлены зрубы-гародні. У канцы 12 — пач. 13 ст. каля падножжа пагоркаў насыпаны ніжні вал выш. 6 м, які ахоўваў спачатку дзядзінец, а потым і вакольны горад. На працягу 13—16 ст. у некалькі этапаў збудаваны мураваныя сцены 7 вежаў (гл. *Навагрудскі замак*). Найбольш даследаваны першы этап існавання дзядзінца — 11—13 ст. Яго паўн. частка каля вала была адведзена для гасп. пабудоў. Самыя раннія з іх пл. да 20 м² адносяцца да 1-й пал. 12 ст. Пабудовы наземныя, зрубныя, часам двух'ярусныя, падлога з дошак. Знойдзены запасы пшаніцы, жыта, ячменю, гароху, рэшткі бочак і кашоў, фрагменты амфар, парадны сталовы посуд, а таксама вагавыя гіркі і інш. рэчы. У паўд. частцы дзядзінца адкрыты рэшткі жылых наземных зрубных пабудоў з глінабітнымі печамі і падлогай з дошак, а таксама невял. хлявы. Інвентар жылых пабудоў паказвае, што яны належалі простым людзям, магчыма, княжацкай чэлядзі. У адным з такіх дамоў займаліся шавецтвам. Адкрыта таксама майстэрня ювеліра 12 ст. Знойдзена зброя: наканечнікі стрэл, бронзавы наканечнік ножнаў мяча, касцяныя стрэлы (для палявання на пушнога звера). У паўн. частцы дзядзінца даследавана Навагрудская царква: квадратная ў плане, 12,2×13 м, з адной апсідай, невял. бабінцам і 4 падкупальнымі слупамі. На падмурку гэтага храма ўзведзены барочны касцёл 17 ст. (34×13,5 м). Навагрудскі палац — жыллё феадала. У запаўненні жылля знойдзены кафля, керамічны і шкляны посуд, каменныя ядры і інш. Перыяд 14—18 ст. менш даследаваны.

Вакольны горад размешчаны на З ад дзядзінца на ўзвышшы Малы замак. Займае пл. каля 2,5 га. Яго пляцоўка мае ў плане форму няправільнага трохвугольніка, звернутага асновай у бок Замкавай гары.



Ігольнік 12 ст. Малы замак у **Навагрудку.**



Галоўка лася 12—13 ст. (гліна, паліва) з Замкавай гары ў **Навагрудку.**

Паўд. частка забудавана. З зах. боку па краі пляцоўкі праходзіць вал, з паўд.-зах. боку — вал і глыбокі роў. Другі дугападобны роў аддзяляе Малы замак ад Замкавай гары. Раскопкі ў паўн.-ўсх. частцы праводзіла ў 1957—77 Гурэвіч. Ускрыта каля 200 м². У 1965—67 даследавалася паўд. частка паселішча. Выяўлены хрысціянскі могільнік 11 ст. Культурны пласт залягае нераўнамерна (ад 1—1,2 м у цэнтры пляцоўкі да 3 м і больш па краях). Вылучаюцца 3 асноўныя гарызонты:

верхні магутнасцю да 1 м (14—17 ст.); сярэдні 0,3—0,8 м, у асобных месцах даходзіць да мацерыка (мяжа 11—12 ст.— 1270-я г.); ніжні 0,2—0,6 м (канец 10 — мяжа 11—12 ст.). У выніку раскопак устаноўлена, што першае неўмацаванае паселішча на Малым замку ўзнікла ў канцы 10 ст. Вал узведзены ў пач. 12 ст. Спачатку забудова складалася пераважна з наземных зрубных жылых дамоў (а таксама невял. колькасці паўзямлянак) пл. да 30 $м^2$ з каменнымі або глінабітнымі печамі. Жыхары займаліся апрацоўкай жалеза (у 10—11 ст. у паўн. і паўд. частках вакольнага горада працавала не менш як 2 кузні) і каляровых металаў. З 12 ст. ў цэнтр. і паўн. частках вакольнага горада пачалі будаваць вял. наземныя драўлянаглінабітныя дамы пл. 70—100 $м^2$. Пры іх узвядзенні выкарыстоўвалі камень-вапняк і цэглу. Вял. дамы былі двухкамерныя з печамі ў кутах ці каля адной са сцен. Асаблівасць вял. дамоў — зашклёныя вокны (дыскі шкла дыям. 20—22 см), аналагічныя вокнам тагачасных храмаў. Сцены адной з пабудоў 12 ст. атынкаваны і пакрыты фрэскавай размалёўкай. У вял. дамах жыла гар. знаць, пра што сведчаць знаходкі — шмат амфарнай керамікі, мясц. і прывазнога посуду з палівай, шкляных пасудзін кіеўскай вытворчасці і прывезеных з Усходу. Знойдзена фаянсавая кераміка з люстранай размалёўкай, зробленая ў майстэрнях Ірана. Побач з унікальнымі вырабамі ў багатых дамах знойдзены ювелірныя прылады і інструменты. Гурэвіч выказала меркаванне, што ў іх працавалі залежныя ад уладальнікаў ювеліры. У вакольным горадзе жылі і працавалі таксама рамеснікі па апрацоўцы дрэва (у т. л. на такарным станку), каменю, бурштыну (з 12 ст.), косці (касцярэзная справа ў асобную галіну рамяства вылучаецца на мяжы 11—12 ст.). У 12 ст. ў сувязі з будаўніцтвам багатых жытлаў і храма з'явіліся майстры па вырабу сценавой фасоннай цэглы. У гаспадарцы жыхароў вял. ролю адыгрывала паляванне: знойдзена шмат паляўнічых прылад, касцей дзікіх жывёл (высакароднага аленя, лася, зубра і інш.). Сярод знаходак прадметы ўзбраення і рыштунку воіна (у т. л. шпоры, інкруставаныя каляровым металам або пакрытыя ліставым серабром), каля 10 разнастайных наканечнікаў стрэл. У матэрыялах раскопак багата прадстаўлены прадметы імпарту: прывезеныя з Кіеўшчыны і Валыні шыферныя прасліцы, шкляныя бранзалеты, пацеркі, пярсцёнкі, шкляны посуд, аконнае шкло, паліваная кераміка, металічныя ўпрыгожанні, прадметы рэлігійнага культу і інш. Сярод прадметаў імпарту амфары з гарадоў Прычарнамор'я, шаўковыя тканіны з Візантыі, шкляны посуд з краін Міжземнамор'я, бурштын з Прыбалтыкі, ювелірныя вырабы з краін Зах. Еўропы, каляровыя і высакародныя металы з Цэнтр. Еўропы і інш. Па колькасці прывазных рэчаў вакольны горад Н. не мае сабе роўных сярод аналагічных помнікаў Беларусі і займае адно з першых месцаў сярод гарадоў Старaж. Русі. Пра пашырэнне пісьменства сведчаць знаходкі больш 10 пісал, надпісы, кніжныя зашпількі. У сярэдзіне 11 ст. ў выніку невядомай катастрофы, хутчэй за ўсё ваеннага характару, жыццё на вакольным горадзе перапынілася прыкладна на паўстагоддзя. Тут, відавочна, сталі хаваць гараджан, што загінулі ў час аблог. Ускрыты 103 пахаванні па абраду трупапалажэння ў неглыбокіх ямах. Нябожчыкі ляжалі ў дамавінах або былі толькі пакрыты дошкамі, на спіне, галавой на З. Пахавальны інвентар вельмі бедны. У другі раз жыццё на вакольным горадзе моцна заняпала ў канцы 13 ст., што, верагодна, звязана з паходам на Навагрудак у 1274 валынскага кн. Льва Данілавіча, калі ён «взя околний град а детинец остался». Пасля ўваходжання горада ў склад ВКЛ заняпад спыніўся. На зах. краі пляцоўкі ў 13 — 1-й пал. 14 ст. збудавана з палявога каменю і цэглы баявая вежа. Яна ахоўвала ўезд на Малы замак. На мяжы 15—16 ст. яе перабудавалі. У сярэдзіне 17 ст. вежа разбурана, з таго ж матэрыялу ўзведзены вятрак. Матэрыялы 14—17 ст. вывучаны значна слабей. Знойдзена шмат цэглы, кафля, керамічны посуд, жалезныя, бронзавыя, шкляныя рэчы, манеты 16—17 ст. (гл. таксама ў арт. *Навагрудскі Малы замак*).



**Бронзавая капавушка 12 ст. Малы замак у Навагрудку.**

Вакол гіст. цэнтра і каля падножжа Замкавай гары размяшчаўся п а с а д. Раскопкі паблізу *Навагрудскай Барысаглебскай царквы* праводзіла ў 1961, 1962 і 1965 экспедыцыя пад кіраўніцтвам Каргера. Былі адкрыты рэшткі храма 16 ст. Культурны пласт каля царквы каля 1 м. Самы ранні керамічны матэрыял датуецца 12—13 ст. У 1988 раскопкі каля Барысаглебскай царквы прадоўжыў А. А. Трусаў. Знойдзены керамі... посуд 11—13 і 15—17 ст., гаршко... і каробчатая кафля з раслінным, геральдычным арнаментам, выяв... грыфона, вазы з кветкамі. Сабра... вял. колькасць шклянога посу... 16—18 ст.: кварты, бутэлькі, ап... нае начынне, аконнае шкло (ё... трохвугольная шыбка), а такса... квадратныя і трохвугольныя п...



**Касцяная капавушка з выявай музы... 12 ст. з Навагрудка.**

падлогі, цэгла-плінфа, цэгла-пальчатка, дахоўка 17 ст., галаснікі, сярэбраныя бляшкі з пахаванняў, цвікі, дзвярныя завесы. У выніку разведачных раскопак у 1987—88 і вывучэння матэрыялаў геалагічнага свідравання Краўцэвіч акрэсліў прыблізныя межы сярэдневяковага неўмацаванага пасада. Матэрыялы 12—13 ст. знойдзены на ўзгорку каля Замкавай гары (керамічны посуд), каля б. касцёла дамініканцаў (кераміка, фрагмент шкляного бранзалета, шыфернае праслі-ца), каля б. францысканскага касцёла (керамічны посуд). У 14—15 ст. тэр. пасада паменшылася, у 16—17 ст. пасад дасягнуў ранейшых памераў. У нізіне на З ад Малога замка знойдзены матэрыялы 16 ст. Сярод рэчаў 16—18 ст. вял. колькасць керамічнага посуду (гаршкі, макотры, рынкі, кубкі, міскі, талеркі), падсвечнікі, гаршковая кафля, вял. колькасць каробчатай кафлі 16—17 ст. (тэракотавая, паліваная, некалькі фрагментаў паліхромнай). Арнаментыка традыцыйная: раслінная, геаметрычная, вылучаюцца цікавыя экземпляры з геральдычным арнаментам і сцэнай палявання на аленя. Сярод шклянога посуду збаны, бутэлькі, шкляніцы, кварты, чаркі і інш. Знойдзена пячатка ад шклянога начыння. Металічныя вырабы прадстаўлены побытавымі рэчамі (цвікі, нажы, падкоўкі на абутак).

На зах. ускраіне Н. захаваўся *Навагрудскі курганны могільнік*. Пакуль невядома, як суадносіцца з горадам узгорак «Гара Міндоўга» на ўсх. ускраіне Н.

Н. упершыню ўпамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1252 (летапісны Новогород, Новгородок) у сувязі з паходам галіцка-валынскіх князёў Данілы і Васілька Раманавічаў у панёманскія землі (некаторыя даследчыкі звязваюць з Н. летапісныя падзеі 1119, 1116 і нават 1044). Першае ўскоснае ўпамінанне Н. адносіцца да 1235 і звязана з імем кн. Ізяслава «Ногородьского» — саюзніка або васала Міндоўга. У 12—13 ст. Н.— развіты ўсх.-слав. горад з багатай і арыгінальнай культурай. У сярэдзіне 13 ст. Н. даў пачатак утварэнню бел.-літ. дзяржавы — Вял. кн. Літоўскага. З Н. Міндоўг заваёўваў Літву, тут у 1253 ён каранаваўся. У 13—14 ст. Н.— цэнтр удзельнага княства. У 1254—60 належаў Раману Данілавічу Галіцкаму, пазней Войшалку, потым абеларушаным князям літ. паходжання. На горад нападалі татары ў 1255, 1274 і 1278, крыжакі ў 1250, 1314, 1321, 1341, 1391, 1394. Пасля 1394 Навагрудскае княства перайшло да велікакняжацкага домена. У 1428 вял. кн. Вітаўт перадаў Н. у пажыццёвае ўладанне сваёй жонцы Ульяне. Потым горадам кіравалі велікакняжацкія намеснікі. У канцы 14 — пач. 15 ст. Вітаўт пасяліў тут татар. Н. быў адным з найбуйнейшых гарадоў ВКЛ, што засведчана прывілеем вял. князя ў 1441. З 1415 горад — рэзідэнцыя праваслаўнага мітрапаліта ВКЛ. Тут праходзілі дзярж. сеймы ў 1448, 1508 і 1538. З 1-й пал. 15 ст. Н.— цэнтр ваяводства і павета. У 1511 Н. атрымаў магдэбургскае права, але частка гар. тэрыторыі належала да замкавай юрыдыкі. У пач. 16 ст. на горад некалькі разоў нападалі крымскія татары, але ўзяць яго не змаглі. У канцы 15 ст. ў Н. 3—4 тыс. жыхароў, у 16 — сярэдзіне 17 ст.— 2—5 тыс., у 18 ст.— каля 3 тыс. У 1568 у Н. 10 праваслаўных храмаў. У 16 ст. Н. стаў адным з цэнтраў рэфармацыі на Беларусі. Пасля Брэсцкай царкоўнай уніі 1569 у горадзе размяшчалася рэзідэнцыя уніяцкага мітрапаліта. У Н. адбываліся сеймікі, праходзілі пасяджэнні гродскага, земскага і падкаморнага судоў, з 1581 — сесіі Гал. літоўскага трыбунала. У познім сярэдневеччы гал. гарадской артэрыяй быў гандл. шлях з Вільні, ён уваходзіў у горад з Пн і каля замка разгаліноўваўся на 2: адзін ішоў праз Карэлічы, Мір на Мінск і Нясвіж, другі вёў на Палессе. На гэтым разгалінаванні знаходзілася рыначная плошча, якая ў плане мела форму няправільнага трохвугольніка. У 16 ст. вядомыя вуліцы Віленская, Падляшская, Кавальская, Дубатоўская, Бельчыцкая. У пач. 15 ст. закладзены фарны касцёл, у 1517—19 на месцы Барысаглебскай царквы пабудаваны новы храм у гатычным стылі. У час руска-польскай вайны 1654—67 у верасні 1655 Н. прыступам узяты рус. войскам і спалены. У час Паўн. вайны 1700—21 шведы штурмам захапілі замак і разбурылі яго (1706). У дакументах адзначаны вял. пажар 8.5.1751, у час якога згарэла 167 дамоў, ратуша, крама, канцылярыя ваяводы і 4 касцёлы. У канцы 18 ст. ў Н. існавалі культавыя мураваныя будынкі: базыльянская царква і кляштар, Васкрасенская царква, царква св. Міколы, францысканскі кляштар, езуіцкі касцёл, *Навагрудскі кляштар дамініканцаў*. Паводле 3-га падзелу Рэчы Паспалітай (1795) Н. увайшоў у склад Расійскай імперыі.



Фрагмент муроўкі 12 ст. **Навагрудскай Барысаглебскай царквы.**



Паўцыркульная дахоўка 14 — пач. 15 ст. з **Навагрудскай царквы.**

*Літ.:* 269, 270, 271, 424, 737, 853.

*Я. Г. Звяруга, А. К. Краўцэвіч.*

**НАВАГРУДСКАЯ БАРЫСАГЛЕБСКАЯ ЦАРКВА**, помнік архітэктуры 12 — пач. 16 ст. Узведзена ў 2-й пал. 12 ст. Цалкам перабудавана ў стылі позняй готыкі ў 1517 (паводле інш. звестак, у 1519). Даследавалі ў 1961—62, 1965 П. А. Рапапорт, М. К. Каргер, у 1987 А. М. Кушнярэвіч, у 1988 А. А. Трусаў.

Сцены царквы 12 ст. былі складзены з вапняковых туфавых блокаў з нязначнымі ўстаўкамі плінфы, вонкавая галерэя, якая з трох бакоў абкружала трохапсідны храм,— толькі з плінфы ў тэхніцы муроўкі са «схаваным радам», характэрнай для *Полацкай архітэктурнай школы* 12 ст. Храм быў размаляваны фрэскамі, меў умураваныя галаснікі, керамічную падлогу з рознакаляровых маёлікавых плітак квадратнай, прамавугольнай і трохвугольнай формы. Фрагмент сцяны стараж. храма стаў часткай фундамента царквы 16 ст.— трохнефавай чатырохслуповай зальнай пабудовы з пяціграннай апсідай, перакрытай зорчатымі нервюрнымі скляпеннямі. Фасады падзелены тонкімі вертыкальнымі лапаткамі, якія ў верхняй частцы пераходзілі ў пояс спічастых арак. Вуглы царквы ўмацаваны шасціграннымі контрфорсамі. Падлога выкладзена з тоўстых (4—5 см) паліваных і непаліваных керамічных плітак. У 17 ст. царква была пакрыта паліванай зялёнай і светла-карычневай дахоўкай, разбураны гал. фасад і ўзведзены новы з 2 вежамі. У 19 ст. прыбудаваны прытвор, зменены завяршэнні вежаў, пасля чаго гал. фасад набыў рысы псеўдарускага стылю. У 1920-я г. зноў рэканструяваны: замест драўлянага барабана з галоўкай адноўлена першапачатковае скляпенне, умацаваны фундамент.

*Літ.:* 1226. *А. А. Трусаў.*

**НАВАГРУДСКАЯ ЦАРКВА.** Існавала ў 14—17 ст. на тэр. Навагрудскага дзядзінца. Выяўлена польскімі даследчыкамі ў 1920—30-я г. Дэталёва даследавана ў 1973—74 ленінградскімі археолагамі пад кіраўніцтвам М. У. *Малеўскай-Малевіч*. Пабудавана, відаць, у пач. 14 ст. Спачатку ўяўляла сабой амаль квадратную (12,3×13 м) бесслупавую

аднаапсідную пабудову з бабінцам. Падмуркі глыб. да 2 м складзены з валуноў, якія зверху змацаваны вапнай з дамешкам дробнай галькі. Падлога была цагляная. Муры таўшч. 1,1—1,2 м з буйнапамернай цэглы складзены ў тэхніцы балтыйскай, або вендскай, муроўкі. Па перыметры царквы праходзілі драўляныя сувязі, ад якіх у сценах захаваліся амаль квадратныя пазы. Вуглы бабінца і адпаведныя яму выступы на паўн. і паўд. фасадах былі выкладзены з вапняковых блокаў. У сярэдзіне — 2-й пал. 14 ст. перабудавана ў чатырохслуповую, была павялічана яе плошча, круглаватая апсіда заменена на прамавугольную, пакрыта паўцыркульнай дахоўкай. Верагодна, у 16 ст. да цэнтр. часткі паўн. мура была зроблена прыбудова. У 17 ст. на падмурках Н. ц. ўзвялі барочны касцёл (не захаваўся). *А. А. Трусаў.*

**НАВАГРУ́ДСКІ ГІСТО́РЫКА-КРАЯЗНАЎЧЫ МУЗЕ́Й.** Заснаваны ў 1987, адкрыты ў 1991. Экспазіцыйная пл. 250 м². У 9 залах прадстаўлены гіст. шлях Навагрудчыны, пачынаючы ад стаянак першабытных людзей. Сярод археал. экспанатаў крамянёвыя нуклеусы, скрабкі, праколкі мезаліту, неаліту, сярэднябронзавага часу, знойдзеныя каля *Гнесічаў*, а таксама каменныя матыкі і сякеры бронзавага веку з інш. археал. помнікаў, гаршчок, збан, фрагменты амфар, бронзавыя гузікі, пярсцёнкі, ланцужок, жал. ключ, лязо нажа, нажніцы, наканечнікі стрэл, фрагмент крыжа, шкляныя пацеркі, фрагменты шкляных бранзалетаў, сярэбраныя з пазалотай упрыгожанні, шыферныя прасліцы, клубок нітак і інш. рэчы 10—13 ст., гаршковая кафля 14 ст., фрагменты керамічнага (12—18 ст.), фаянсавага і фарфоравага посуду (15—19 ст.; гаршкі, кубкі, талеркі, збаны і інш.), паліванай і непаліванай кафлі 16—19 ст. з раслінным і геам. арнаментам, шкляныя бутэлькі, металічныя рэчы (баявая сякера, цвікі, замкі і інш.) 15—19 ст. з раскопак *Навагрудка, Навагрудскага курганнага могільніка, Мольнічаў, Суляцічаў* і інш. археал. помнікаў. У нумізматычнай калекцыі больш за 500 адзінак, у т. л. рымская сярэбраная манета 103—111 імператара Траяна [98—117], візантыйскі дэнарый 306—337, дэнарыі і соліды ВКЛ, польскія грошы і злотыя, расійскія палушкі, грыўеннікі, капейкі, рублі, аўстрыйскія кроны, нямецкія пфенінгі, маркі.

*Т. В. Вяршыцкая, Н. П. Шурак.*

**НАВАГРУ́ДСКІ ЗА́МАК.** Існаваў у 10—17 ст. З'яўляўся стараж. цэнтрам г. *Навагрудак* і рэзідэнцыяй зах.-рус. і літ. князёў. Размешчаны на ўзгорку (часткова насыпным) выш. 20 м, т. зв. Замкавай гары (дзядзінцы). З Пн і ПнУ Замкавая гара была ўмацавана ровам глыб. 10 м і шыр. 10—12 м, а таксама земляным валам выш. каля 6 м і шыр. у аснове 27 м. Мяркуюць, што абарончы роў быў запоўнены вадой, на вале стаялі драўляныя сцены. У 2-й пал. 13 ст. пабудавана чатырохвугольная ў плане (12×12 м) абарончая вежа з вял. камянёў на вапне. Падмурак выш. 3,5 м мае трыццацісантыметровы цокаль. У 1394 у час апошняга нападу крыжакоў вежа, відаць, была моцна пашкоджана, асабліва яе верхнія ярусы. У канцы 14 ст. адноўлена, змуравана з цэглы, рэшткі папярэдняй выкарыстаны як падмурак. Вежа ўвайшла ў гісторыю замка пад назвай Шчытоўка, Шчытавая, Цэнтральная. Пяціпавярховая вежа мела меншыя памеры (11,4×11,4 м), формай нагадвала прызму. Выш. сцен каля 25 м, таўшч. на ўзроўні 1-га паверха да 2,75 м, 2-га — 2,6 м. Адтуліны ад бэлек перакрыцця 35×35 см. Вежа была накрыта чатырохсхільным дахам. Сцены прарэзаны спічастымі байніцамі, на ніжнім паверсе — брамнымі праёмамі. У канцы 14 ст. з ПнУ і У пабудаваны яшчэ 3 мураваныя вежы. Справа на У ад Шчытоўкі пастаўлена трохпавярховая Касцельная вежа (9×9 м у аснове). Ад яе па ўсх. строме гары выкладзена мураваная сцяна даўж. 80 м, якая вяла да 2-й уваходнай вежы — Малой брамы (8×10 м у аснове). Ад брамы на З было прасла сцяны даўж. 70 м і таўшч. 2,6 м. Сцяна звязвала Малую браму з Пасадскай вежай (7,7×7,7 м у аснове, таўшч. сцен 2,6 м). У вежы быў праход шыр. 1,5 м. Вежы былі трохпавярховыя, мелі па 4 байніцы на кожным паверсе. У Малой браме быў дзвярны праём выш. 3 м і шыр. 1,6 м. Для надзейнага забеспячэння Н. з. вадой на ўсх. схіле над крыніцай была пастаўлена Калодзежная вежа (8×8 м), якая звязвалася праслам сцяны з верхнімі сценамі замка. Унутры вежы быў спец. праход да вады. Будаўніцтва вежаў закончылася да 1410. Далейшае ўмацаванне Н. з. адбывалася ў канцы 15 — пач. 16 ст. ў сувязі з нападамі крымскіх татар. У паўн.-зах. частцы замка была пабудавана мураваная вежа Дазорца (14×14 м), чатырохметровы каменны падмурак якой меў форму ганка. Паміж вежамі Дазорца і Шчытоўка ўзвялі мураванае прасла сцяны, што замкнула кальцо замкавых збудаванняў. У пач. 16 ст. каля паўд.-ўсх. схілу Замкавай гары пабудавана яшчэ адна — Меская вежа-брама, якая звязвалася праслamі сцен з Калодзежнай вежай і Малой брамай. Утварыўся дадатковы своеасаблівы мураваны пояс абароны перад уваходам у замак з боку горада. У канцы 16 — пач. 17 ст. на замкавым дзядзінцы пабудаваны палац, да якога прылягала капэла (канец 17 ст.). У 1505 і 1506 татары двойчы асаджалі замак, але ўзяць яго не змаглі. Неаднаразовыя разбурэнні зведаў Н. з. у сярэдзіне 17 — пач. 18 ст. У 1706 замак узарваны шведамі. На тэрыторыі Н. з. была царква, пабудаваная ў 14 ст. на падмурку выш. 2 м, памерам 13,5×13,5 м у аснове. З У яна мела невял. закругленую апсіду. Сцены храма таўшч. да 1,2 м зроблены з буйнапамернай цэглы. Скляпенні на нервюрах. Пазней пастаўлены 4 падкупальныя слупы. Пад падлогай былі 2 склепы, куды вялі мураваныя прыступкі. У 17 ст. ў выніку перабудовы



**Навагрудскі замак.** Рэканструкцыя В. П. Сташчанюка. 1991.

царквы яе аб'ём падоўжаны ў зах. напрамку, павялічана апсіда. Пры ранейшай шыр. 13,5 м даўж. будынка склала 34 м. Над паўд. сцяной пабудавана вежа складанай канфігурацыі. Фасады дэкарыраваны фігурнымі атынкаванымі карнізамі, цягамі, нішамі і інш. Да 1775 у храме адбываліся сесіі Трыбунала — вышэйшага апеляцыйнага суда ВКЛ. Царква разбурана ў 19 ст. Захаваліся падмурак, частка сцен і падкупальных слупоў. Гл. таксама арт. *Навагрудскі Малы замак*.

*Літ.:* 271, 1201. *М. А. Ткачоў.*

**НАВАГРУ́ДСКІ КЛЯ́ШТАР ДАМІНІКА́НЦАЎ.** Існаваў у 17 — сярэдзіне 20 ст. Разбураны ў 1950—60-я г. Захаваўся Міхайлаўскі касцёл 1-й пал. 18 ст. Археал. даследаванні праводзілі ў 1987 А. М. Кушнярэвіч, у 1988 А. К. Краўцэвіч. Раскапана 180 м². Шурфоўкай акрэслены контуры будынка кляштара, расчышчаны ўваход у сутарэнні, вызначана глыбіня залягання падмуркаў (да 4,75 м) ад дзённай паверхні. Сярод знаходак невял. колькасць рэчаў 12—13 ст. (фрагменты непаліваных гаршкоў, шкляны бранзалет, шыфернае прасліца). Асноўная маса знаходак адносіцца да 17 — 1-й пал. 18 ст.: буд. матэрыялы (хвалістая дахоўка, цэгла, кафля з геам., раслінным арнаментам, кафля-каронка з рэлігійным сюжэтам), шмат керамічнага (гаршкі, міскі, макотры, збаны, рынкі, кубкі, талеркі, накрыўкі), шклянога (бутэлькі, кварты, біклагі, чаркі, келіхі, аптэчнае начынне) посуду, аконнае шкло.

Міхайлаўскі касцёл пабудаваны ў стылі сталага барока, адноўлены пасля пажараў 1751 і 1831. У 1829 побач з храмам пабудавана двух'ярусная мураваная званіца (не захавалася). Касцёл — мураваная трохнефавая базіліка з плоскім бязвежавым гал. фасадам і паўцыркульнай апсідай. Гал. фасад падзелены развітымі карнізамі на 2 ярусы і завершаны трохвугольным франтонам з вежачкай над ім. Тарцы дахаў бакавых нефаў закрыты ступеньчатымі атыкамі. Сцены аздоблены пілястрамі. Праёмы з лучковымі і арачнымі завяршэннямі. Унутры цэнтр. неф перакрыты цыліндрычным скляпеннем на распалубках, упрыгожаным ляпным геам. арнаментам. Бакавыя нефы маюць крыжовыя скляпенні. Інтэр'ер багата аздоблены лепкай.

*Т. В. Габрусь, А. К. Краўцэвіч.*

**НАВАГРУ́ДСКІ КУРГА́ННЫ МО́ГІЛЬНІК** *дрыгавічоў.* За 1,5 км на У ад г. Навагрудка і 1 км на З ад в. Брацянка Навагрудскага р-на. Складаецца з 2 груп, аддзеленых паласой ворыва шыр. 200—250 м. 52 насыпы (у пач. 1960-х г. іх было 160) выш. да 1,5 м, дыям. 5—10 м, шмат якія курганы разараны. Даследавалі ў 1956 Ф. Д. Гурэвіч (4 курганы), у 1963, 1965, 1968 К. В. Паўлава (26 курганоў), абследаваў у 1975 М. А. Ткачоў. У 6 насыпах пахавальны абрад — трупаспаленне на месцы пахавання, у 2 — трупаспаленне па-за межамі могільніка, у 22 — трупапалажэнне на гарызонце галавой на З, ПдЗ і ПнЗ. У 10 курганах пад пахаваннямі былі праслойкі попелу, у 5 такія праслойкі былі і над пахаваннямі.

У некаторых насыпах побач з пахаваннямі траплялiся камяні, што, відаць, было звязана з перажыткамі пахавальнага абраду каменных курганоў. У насыпах з трупаспаленнем знойдзены фрагменты жал. і бронзавых вырабаў, абломкі ганчарных пасудзін, у насыпах з трупапалажэннем — жал. нажы, крэсівы, сякера, спражка, пярсцёнкі, трохпацеркавыя і са спіралепадобным завітком скроневыя кольцы, шкляныя і сердалікавыя пацеркі, цэлыя і фрагментаваныя гаршкі.



Шкляныя залачоныя пацеркі 11—12 ст. з **Навагрудскага курганнага могільніка.**

Могільнік з'яўляўся некропалем стараж. Навагрудка, датуецца канцом 10—11 ст.

*Літ.:* 272, 853, 856. *Я. Г. Звяруга.*

**НАВАГРУ́ДСКІ МАЛЫ́ ЗА́МАК.** Існаваў у 12—18 ст. Абкружаў тэр. гандлёва-рамеснага пасада стараж. *Навагрудка.* Заселеная з 11 ст. пляцоўка Н. М. з. мела форму няправільнага трохвугольніка (каля 225 м з Пн на Пд і 130 м з З на У), якая паўтарала канфігурацыю прыроднага ўзвышэння. Земляны вал захаваўся з зах. і паўд.-зах. бакоў. З У Н. М. з. быў аддзелены ровам ад пляцоўкі *Навагрудскага замка.* Даследавалі ў 1959 П. А. Рапапорт, у 1969 М. А. Ткачоў. Высветлена, што вал насыпаны ў 12 ст. з пяску, зямлі і дробнай галькі, у 12—13 ст. меў шыр. каля 9—10 м у аснове і выш. 3—4 м. З вонкавага боку быў умацаваны насыпам з пяску. На вяршыні вала стаялі драўляныя абарончыя сцены зрубнай канструкцыі. У насыпе вала на глыб. 1,35 м выяўлены развал абвугленых дубовых бярвён таўшч. 23—25 см ад рубленай абарончай сцяны. У 13—14 ст. насып падсыпалі зямлёй з культурнага пласта. У канцы 13 — пач. 14 ст. ў лініі драўляназемляных умацаванняў Н. М. з. з паўд.-зах. боку поля пабудавана мураваная вежа. Прамавугольная ў плане (10,9×12,3 м), складзена з вял. валуноў і цэглы-пальчаткі (таўшч. сцен 2,6 м). Па тэхніцы ўзвядзення гэта вежа вельмі блізкая да вежаў Навагрудскага замка. На мяжы 15—16 ст. яе разбурылі і перабудавалі: да сцен падмурка зрабілі прыкладкі таўшч. 1 м і на расшыранай аснове ўзвялі новую васьмігранную вежу. У час руска-польскай вайны 1654—67 яна разбурана, а цэгла выкарыстана пры будаўніцтве на старым падмурку млына-ветрака. Умацаванні Н. М. з. перасталі існаваць пасля Паўн. вайны 1700—21.

*Літ.:* 949, 1200. *М. А. Ткачоў.*

**НАВАГРУ́ДСКІ ПАЛА́Ц** (Дом феадала). Існаваў у сярэдзіне 14—17 ст. на тэр. Навагрудскага дзядзінца. Адкрыты і даследаваны ў 1970 М. У. Малеўскай-Малевіч. Амаль квадратны ў плане (9,5×10 м) двухпавярховы мураваны будынак з цэнтр. слупам і перагародкай, якія дзялілі яго на 3 памяшканні. Захаваліся муры на выш. 4 м, таўшч. 1—1,2 м, складзены з камянёў, знутры абкладзены буйнапамернай цэглай (29—30×13—14×8—9,5 см) без пэўнай сістэмы яе перавязкі. Падземная частка падвальнага памяшкання праразае паўн. схіл вала і культурны пласт 12—13 ст. Быў і другі паверх, аб чым сведчаць рэшткі аконных шыбаў з свінцовым абрамленнем. Захаваліся рэшткі крыжовых і нервюрных скляпенняў. Рэбры нервюр выкананы з фігурнай стрэлападобнай цэглы (падобная на цэглу паўн.-зах. вежы *Лідскага замка*). Знойдзена кафля 14—17 ст., шматлікі шкляны посуд, жалабатая дахоўка. Пэўныя аналагі Н. п. прасочваюцца ў *Гродзенскім княжацкім палацы* 12 ст., мураваных дамах Рыгі 13—14 ст.

*Літ.:* 271, 737.

*А. А. Трусаў, І. М. Чарняўскі.*

**НАВАДВО́РСКІ МАНЕ́ТНЫ СКАРБ.** Знойдзены ў в. Новы Двор Мінскага р-на ў 1871. Вядома 366 манет: 92 куфіцкія *дырхемы* і іх *манеты-перайманні,* 273 заходнееўрап. *дэнарыі* і іх перайманні, 1 візантыйскі *міліярысій.*

Арабскі Халіфат: дынастыя Абасідаў (2 экз.): ал-Мутадыд білах [892—902], ал-Муці лілах [946—974] — манетныя двары Тусцер мін ал-Ахваз і Тыфліс; эміры Саманіды (66 экз.): Ахмад ібн Ісмаіл [907—914], Наср ібн Ахмад [914—943], Нух ібн Наср [942—954], абд аль-Малік [954—961], Мансур ібн Нух [961—976], Нух ібн Мансур [976—997] — Амоль, Андараба, Балх, ал-Бііяр, Бухара, Пенджхір, Рашт, Самарканд, аш-Шаш; эміры Буіды (10

экз.): Адуд ад-Даула [949—982] — Араджан, Джурджан, Мадынат ас-Салам, ал-Мухамедыя і нявыяўленыя манетныя двары; эміры Зіярыды (8 экз.): Бісутун ібн Вашмгір [967—976], Кабус ібн Бісутун [976—1012] — Амоль, Джурджан і нявыяўленыя манетныя двары; эміры Іхшыдзіды (1): нявыяўлены *эмітэнт* — Табарыя; эміры Хамданіды (2 экз.): Сайф ад-Даула [944—967] — Масул і нявыяўлены манетны двор; перайманні дырхемаў Іхшыдзідаў (2 экз.). Г е р м а н і я (247 экз.): Генрых I [919—936] — манетны двор Вердэн; Атон I [936—962] — Кёльн (9 экз.); Атон I з братам Бруно [953—965] — Кёльн (1 экз.); Атон II [973—983] — Канстанц (1 экз.), Маастрыхт (1 экз.); Атон II або Атон III [983—1002] — Кёльн (4 экз.), Майнц (118 экз.); Атон III — Кёльн (15 экз.), Льеж (1 экз.), Майнц (1 экз.), Страсбург (7 экз.); Атон I Адэльгейда — нявыяўленыя манетныя двары (47 экз.); епіскап Удальрых [923—973] — Аўгсбург (1 экз.); герцаг Конрад [937—933] — Базель (3 экз.); герцаг Буркгард [954—973] — Цюрых (3 экз.); епіскап Эркамбольд [965—991] — Страсбург (3 экз.); герцаг Ота [973—982] — Брэйзах (1 экз.), Рэгенсбург (2 экз.); епіскап Генрых [973—982] — Аўгсбург (1 экз.); герцаг Генрых III [982—985] — Рэгенсбург (3 экз.); герцаг Генрых II [другое праўленне, 985—995] — Рэгенсбург (1 экз.); нявыяўлены эмітэнт (канец 10 — пач. 11 ст.) — Гандэрсгейм (21 экз.); нявыяўленыя эмітэнт і манетны двор (1 экз.). Д а н і я (1 экз.): нявыяўленыя эмітэнт і манетны двор (паўбрактэат). Ф р а н ц ы я (8 экз.): Роберт [996—1031] і епіскап Адальбера [995—1031] — Лан. Ч э х і я (1 экз.): Баляслаў II [967—999] — нявыяўлены манетны двор. В е н д к і (3 экз.): нявыяўленыя эмітэнты і манетныя двары. В і з а н т ы я (1 экз.): Іаан Цімісхій [969—976] — Канстанцінопаль (міліярысій). П е р а й м а н н і (13 экз.) чаканкі Карла Тоўстага [876—887] — Меца (11 экз.), Атонаў I, II або III — Кёльн (1 экз.), нявыяўленага эмітэнта (апошняя чвэрць 10 ст.) — Рэгенсбург (1 экз.). Ухаваны каля 1000. Зберагаюцца ў Эрмітажы 34 дырхемы Арабскага халіфата, лёс астатніх невядомы.

*Літ.*: 1550, 1569, 1646.

*В. Н. Рабцэвіч.*

**НАВАСА́ДЫ,** група археал. помнікаў каля в. Навасады Дзяржынскага р-на.

Г а р а д з і ш ч а *штрыхаванай керамікі культуры* і часоў Кіеўскай Русі. За 400—500 м на Пд ад вёскі, на левым беразе р. Слаўка (прыток р. Уса). Мясц. назва Замак. Займае мыс, утвораны берагам ракі і глыбокім ярам. Пляцоўка амаль авальнай формы, памер 125×53 м, з боку поля ўмацавана дугападобным валам выш. 2—3,5 м і ровам. Даследаваў у 1928 М. М. Канвісараў. Культурны пласт 0,2—0,4 м. Знойдзена ляпная штрыхаваная і ганчарная кераміка 10—11 ст.

С е л і ш ч а-1. На У ад гарадзішча за валам. Пл. 1,5 га. Абследаваў у 1928 А. М. Ляўданскі, даследаваў у 1960 Э. М. Загарульскі. Датуецца 10—11 ст. Знойдзена ганчарная кераміка.

С е л і ш ч а-2. На правым беразе р. Слаўка, насупраць селішча-1. Плошча каля 2,5 га. Абследавалі ў 1928 Ляўданскі, у 1979 Ю. А. Заяц. Знойдзены фрагменты керамічнага посуду 10—12 ст. Раскопкі не праводзіліся.

К у р г а н н ы  м о г і л ь н і к-1. За 300 м на У ад гарадзішча, з правага боку дарогі на в. Крыштафова. 156 насыпаў выш. 0,5—2,5 м, дыям. 4—19 м, размешчаных 2 групамі. Даследавалі ў 1928 Ляўданскі, у 1987 Заяц. Раскапана 12 насыпаў. Пахавальны абрад — трупаспаленне на месцы пахавання і па-за межамі пахавання. Рэшткі крэмацыі змяшчаліся на мацерыку і ў насыпе, на падсыпцы. Знойдзены рэшткі жал. вырабаў, ганчарны посуд, крэмень. Датуецца пач. 10 ці пач. 1-й пал. 11 ст.

К у р г а н н ы  м о г і л ь н і к-2. За 700 м на ПнЗ ад гарадзішча, направа ад дарогі на в. Піяніна, ва ўрочышчы Кернаж. 20 насыпаў выш. 1,8—2 м, дыям. 8—9 м. У 1928 3 курганы даследаваў А. М. Ляўданскі, у 1961 1 курган — Э. М. Загарульскі. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на мацерыку. Знойдзены ганчарны посуд, жал. серп.

*Літ.*: 328. *Ю. А. Заяц.*

**НАВАСЁЛКІ,** гарадзішча *штрыхаванай керамікі культуры* каля в. Навасёлкі Барысаўскага р-на. За 100 м на Пн ад вёскі, на правым беразе р. Бярэзіна. Пляцоўка паўавальная, памер 45×16 м, вышыня над узроўнем вады каля 16 м. З зах. боку была ўмацавана валам, які цяпер зніведіраваны. Адкрыў у 1931 А. М. Ляўданскі, даследаваў 50 м² у 1950 А. Р. Мітрафанаў, абследаваў у 1982 Г. В. Штыхаў. Культурны пласт 1,2—1,4 м.

Знойдзены жал. сярпы, нажы, шылы, кіепадобныя шпількі, гліняныя праслíцы, грузікі дзякоўскага тыпу, бронзавы бранзалет, пацеркі, пярсцёнак, фібула з падвязанай ножкай, фрагменты ляпнога штрыхаванага посуду, жал. шлак, косці свойскіх і дзікіх жывёл.

Датуецца 6—1 ст. да н. э.

*Літ.*: 718, 785. *А. Р. Мітрафанаў.*

**НАВАСЁЛКІ,** археал. помнікі каля в. Навасёлкі Ваўкавыскага р-на.

К а м е н н ы  м о г і л ь н і к. За 1 км на ПдЗ ад вёскі, на пагорку і яго схілах, у лесе. Даследавала ў 1981 А. В. Квяткоўская. Магілы згрупаваны па 2—3 і больш, размешчаны няроўнымі радамі. Каменныя вымасткі падоўжна-авальнай формы. У галавах пахаванняў вял. камяні (на некаторых з іх выбіты крыжы), у нагах — камяні меншых памераў. Магільныя ямы 4-вугольныя з закругленымі вугламі, глыб. 1—1,5 м.

Пахавальны абрад — трупапалажэнне на спіне галавой на З з нязначным адхіленнем на Пд. Захаваліся рэшткі дамавін, дошкі якіх мацаваліся цвікамі. Пахавальны інвентар адсутнічае. Могільнік датуецца 17—18 ст. З яго ўзнікненнем звязана мясц. паданне. Ехалі ў царкву 2 шлюбныя картэжы. На вузкай дарозе раз'ехацца не маглі і саступіць адзін аднаму не хацелі. Дайшла справа да бойкі. Раз'юшыўся Бог, убачыўшы такое святатацтва каля храма, і пакараў людзей: пераўтварыў іх у камяні і раскідаў па гары. Царква правалілася, на яе месцы ўзнікла крынічка з гаючай вадой.

С е л і ш ч а. За 200 м на У ад паўн. ускраіны вёскі, каля развілкі дарог на в. Басалыкі і Карпаўцы. Выявіў у 1981 і даследаваў 64 м² В. У. Шаблюк. Культурны пласт 0,6 м. Выяўлены рэшткі дзвюх пабудоў 17—18 ст. з кафлянай і цаглянай печамі, больш за 6 тыс. фрагментаў бытавой керамікі, больш за 1 тыс. фрагментаў тэракотавай кафлі з раслінным і геам. арнаментам, рэшткі шкляных вырабаў.

Сярод знаходак — замок, падкова, спражкі, пярсцёнак, іголкі, 3 манеты (грошы і паўгрош Рэчы Паспалітай 2-й пал. 18 ст.). На карце 1797 на месцы селішча адзначана карчма.

*А. В. Квяткоўская, В. У. Шаблюк.*

**НАВАСЁЛКІ,** археал. помнікі каля в. Навасёлкі Веткаўскага р-на.

Г а р а д з і ш ч а. На паўд. ускраіне вёскі, на мысе, утвораным шырокім ярам. Пляцоўка авальная, памер 50×60 м. Валы і равы згладжаны, толькі на ПнУ павышэнне да 0,3 м. Вядома з 1910, абследавала ў 1975 С. М. Васільева.

Знойдзена ляпная кераміка штрыхаванай керамікі і мілаградскай культур, асобныя яе фрагменты — эпохі бронзы.

С е л і ш ч а эпохі Кіеўскай Русі. На паўн.-ўсх. ускраіне вёскі, на краі 4—7-метровай надпоймавай тэрасы правага берага Сажа. Памер 200××60 м. Абследавалі ў 1975 Васільева, у 1977 і 1980 А. А. Макушнікаў. Культурны пласт 0,4—0,5 м.

Знойдзены ляпная і ганчарная кераміка, абпаленыя камяні, глінянае грузіла, каменны брусок, бронзавы энкалпіён (крыж-складзень).

*Літ.*: 733, 981.

*А. А. Макушнікаў, С. М. Васільева.*

**НАВАСЁЛКІ,** стаянкі каменнага і бронзавага вякоў і каменны могільнік 1-й пал. 16 — пач. 17 ст. каля в. Навасёлкі Зэльвенскага р-на.

С т а я н к а-1. За 400 м на Пн ад вёскі, на правым беразе р. Зальвянка. Выявіў у 1968 М. М. Чарняўскі. Пл. 20×40 м. Культурны пласт у значнай ступені разбураны. Знойдзены матэрыялы мезалітычнага і ранненеалітычнага (дубічайскі этап нёманскай культуры) часу.

С т а я н к а-2. За 700 м на Пн ад вёскі, на выступе высокага поплаву р. Пераездка (правы прыток Зальвянкі). Адкрыў і даследаваў (120 м²) у 1980 Чарняўскі. Пл. 140×50 м. Культурны пласт таўшч. да 0,5 м. Знойдзены пераважна крамянёвыя вырабы і кераміка ранняга (дубічайскага) этапу *нёманскай культуры*,

матэрыялы *тшцінецкай культуры* бронзавага веку. У сярэднявеччы тут размяшчалася вёска.

Стаянка-3. За 1 км на Пн ад вёскі і р. Пераездка, на мысе правабярэжнай тэрасы Зальвянкі. Выявіў у 1968, даследаваў (72 м²) у 1980 Чарняўскі. Выш. 4 м. Культурны пласт таўшч. да 0,7 м. Выяўлены адкрытыя агнішчы-кастрышчы, крамянёвы і керамічны матэрыял. Мыс заселены ў раннім мезаліце, але найбольш — у неаліце. Акрамя тыповых для неаліту прылад знойдзены абломкі посуду пераважна ранняга і позняга этапаў нёманскай культуры.

Каменны могільнік. За 100 м на ПнУ ад вёскі, на невял. пагорку. Даследавала (16 пахаванняў) у 1981 А. В. Квяткоўская. У паўд. частцы могільніка знаходзіліся стараж. магілы (сярод іх курган, перакапаны пазнейшымі пахаваннямі), у паўночнай — пахаванні 19—20 ст. Пахавальны абрад — трупапалажэнне.

Магілы размяшчаліся няроўнымі радамі, групамі па 2—3, кожная мела каменныя вымасткі прамавугольнай, зрэдку авальнай формы. У галаве пахаванняў стаялі вялікія, у нагах — меншыя камяні. Пад вымасткамі ў слаі гумусу выяўлена вуголле і рэшткі керамічнага посуду. У адным з пахаванняў пад камянямі выяўлена агнішча, кальцыніраваныя косці, рэшткі ляпной керамікі 3-й чвэрці 9 ст. і бронзавая бразготка. Знойдзена ганчарная кераміка 16 — пач. 17 ст. Магільныя ямы чатырохвугольнай формы (глыб. 0,85—1,1 м), у іх запаўненні выяўлены вуглі, кавалкі дошак ад дамавін, цвікі, якімі мацаваліся дошкі. Нябожчыкі ляжалі на спіне (у першым выпадку — на правым баку), галавой на З, зрэдку на Пд ці ПдЗ. Пахавальны інвентар бедны: жал. нажы і дэнарый Жыгімонта І Старога (паміж 1530—47). Большасць пахаванняў без інвентару. Знішчаны ў час буд. работ.

*А. В. Квяткоўская, М. М. Чарняўскі.*

**НАВАСЁЛКІ**, стаянка эпохі мезаліту каля в. Навасёлкі Магілёўскага р-на. За 500 м на Пн ад вёскі, на 2-й надпоплаўнай тэрасе правага берага Дняпра. Адкрыў у 1974 і даследаваў 18 м² у 1989 В. Ф. Капыцін. Верхняя частка культурнага пласта разбурана ворывам. На разаранай частцы помніка зафіксаваны 3 скопішчы расшчэпленага крэменю: нуклеусы, пласціны, адшчэпы, дробныя асколкі.

Сярод знаходак: тронкавы наканечнік стралы, рэтушныя разцы, канцавыя скрабкі, у т. л. двайныя, пласціны і адшчэпы з рэтушшу. Сыравінай для іх вырабу служыў цёмна-шэры крэмень, выхады якога знойдзены блізка ад стаянкі. Стаянка была сезонным паселішчам стараж. паляўнічых.

*Літ.*: 576. *В. Ф. Капыцін.*

**НАВАСЁЛКІ**, стаянкі каменнага і бронзавага вякоў каля в. Навасёлкі Мастоўскага р-на. Абследаваў у 1976 і 1986 М. М. Чарняўскі.

Стаянка-1. На паўн. ускраіне вёскі, на валападобным павышэнні краю трынаццаціметровай тэрасы Нёмана. На адлегласці 100 м ад вёскі на ворным полі. Знойдзены крамянёвыя вырабы плямён познасвідэрскай культуры. Сярод знаходак найбольш характэрныя прызматычныя нуклеусы.

Стаянка-2. На паўд. ускраіне вёскі, на паніжанай шасціметровай тэрасе левага берага Нёмана. Памер 90×80 м. Прыбярэжны край помніка падмыты ракой, у агаленні — метровы пласт сярэдневяковага селішча. Найбольш ранняя знаходкі — мезалітычныя. Была таксама заселена ў неаліце і бронзавым веку.

*М. М. Чарняўскі.*





Сякера і ўпрыгожанні з курганнага могільніка Навасёлкі (Мядзельскі р-н).

**НАВАСЁЛКІ**, курганны могільнік крывіцка-балцкага насельніцтва ў межах г. п. Мядзел. Каля былой в. Навасёлкі, ва ўрочышчы Французскія магілы. Больш за 100 насыпаў выш. 0,5—2,3 м, дыям. 4—12 м, большасць пашкоджана. Найбольшыя курганы ў паўн.-усх. і паўн.-зах. частках могільніка. Вакол асновы многіх курганоў ёсць раўкі і перамычкі. Вядомы з канца 19 ст. У 1962—63 Ю. І. Драгун даследаваў 12 насыпаў, у 1979 і 1985 абследаваў Я. Г. Звяруга, у 1983—90 А. М. Плавінскі і В. Н. Рабцэвіч даследавалі 23 насыпы. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце пераважна галавой на З, ва ўсіх курганах сляды рытуальных вогнішчаў. Некалькі пахаванняў па абраду трупаспалення.

Знойдзены баявыя і рабочыя сякеры, ляпны і ганчарны посуд, наканечнік дзіды, разнастайныя дэталі адзення і жаночыя ўпрыгожанні: падкаваподобныя і шматпрамянёвыя фібулы, бронзавыя і плоскія пярсцёнкі, бранзалетападобныя скроневыя кольцы, шара- і грушападобныя бразготкі, ланцужкі і скроневыя конусападобныя падвескі з бронзавага дроту, плоскі конік з цыркульным арнаментам, разнастайныя пацеркі (сердалікавыя, бурштынавыя, залата- і сярэбрана-шкляныя), бісер, амулеты з касцей і іклаў жывёл. Датуецца 11—13 ст. *А. М. Плавінскі.*

**НАВАСЁЛКІ**, група археал. помнікаў 3-га тысячагоддзя да н. э. каля в. Навасёлкі Петрыкаўскага р-на.

Паселішча-1. За 1 км на У ад вёскі, на 1-й падпоймавай тэрасе р. Прыпяць. Цягнецца ўздоўж ракі больш як на 150 м. Адкрыў і абследаваў у 1961 У. Ф. Ісаенка. Знойдзены крамянёвыя прылады працы і фрагменты неаліт. глінянага посуду.

Паселішча-2. За 2,5 км на У ад вёскі, ва ўрочышчы Ключыха, на 1-й надпоймавай тэрасе р. Прыпяць, выш. 6—7 м над узроўнем вады. Даўж. больш за 200 м. Выявіў і даследаваў у 1961 Ісаенка. Культурны пласт таўшч. 0,3 м, зверху перакрыты пяском.

Выяўлены крамянёвыя наканечнікі стрэл, скрэблы, скрабкі, пласціны, рэшткі посуду. У цэнтр. частцы паселішча ў яме глыб. 0,3 м знойдзены скарб: 11 падрыхтаваных для апрацоўкі крамянёвых жаўлакоў, 1 ядрышча, 1 дыскападобная прылада. Адносіцца да палескага варыянта *днепра-данецкай культуры*.

*Літ.*: 460. *У. Ф. Ісаенка.*

**НАВІГАЦЫЙНАЯ АРХЕАЛОГІЯ**, галіна археалогіі, якая па археал. звестках вывучае шляхі і цэнтры водных камунікацый, стараж. судны, спосабы судакіравання.

Археал. помнікі Н. а. вывучае з улікам навігацыйных характарыстык: адлегласць ад вады, вышыня і характарыстыка берага, наяўнасць ці адсутнасць паблізу бухты, становішча адносна рачной сістэмы, магчымасць выкарыстання археал. помнікаў у мінулым як навігацыйных арыенціраў, узаемасувязь іх з іншымі помнікамі і г. д. Задачай Н. а. з'яўляецца рэканструкцыя стараж. сеткі камунікацый, мадэліраванне водных шляхоў. Напр., у 1985—87 праводзіліся археолага-навігацыйныя работы на *шляху «з варагаў у грэкі»* (экспедыцыя «Нево»), якія ахапілі тэр. Беларусі (прытокі Зах. Дзвіны і Дняпра).

*Літ.*: 654, 655. *Л. У. Дучыц.*

**«НАВІНЫ БЕЛАРУСКАЙ АКАДЭМІІ»**, газета АН Беларусі. Выдаецца з 24.10.1970 (да 29.6.1990 наз. «За передовую науку») у Мінску на бел. і рус. мовах адзін раз на

тыдзень. Асвятляе дзейнасць ін-таў і прэзідыума АН Беларусі, праблемы, звязаныя з катастрофай на Чарнобыльскай АЭС, аховы навакольнага асяроддзя, захавання культурнай спадчыны бел. народа. Змяшчае паведамленні бел. і замежных сродкаў масавай інфармацыі.

З артыкуламі па археалогіі і нумізматыцы ў газеце выступілі: Ш. Бекцінееў (работа першай Усесаюзнай школы маладога археолага на тэму «Праблемы рэканструкцыі пачатковых этапаў развіцця чалавецтва», 9.1.1981; берасцяныя граматы з Віцебска, Мсціслава, Ноўгарада, 5.7.1981; манетны скарб 14—15 ст. з Брэста, 28.1.1983; гузікі 10—18 ст. на тэр. Беларусі, 18.4.1986 і інш.), Т. Бубенька (раскопкі Віцебскага Ніжняга замка, 29.12.1989), Л. Дучыц (археал. помнікі 9—13 ст. на тэр. Браслаўскага р-на, 19.6.1981; археал. знаходкі, якія пацвярджаюць сувязі са Скандынавіяй, 15.10.1982; Барысавы камяні, 16.12.1983; знаходкі паганскіх ідалаў, 27.5.1983), Э. Зайкоўскі (матэрыялы археал. раскопак каля в. Галоўск Сенненскага р-на, 26.6.1981; знаходкі на Беларусі камянёў і інш. прадметаў з надпісамі, 22.7.1983), Г. Залашка (вынікі раскопак бел. археолагаў на Палессі ў 1976—79 гг., 23.1.1980; раскопкі бескурганнага могільніка каля Давыд-Гарадка, курганнага могільніка Дубай Столінскага р-на, селішча Хільчыцы Жыткавіцкага р-на, 20.11.1981; аб гісторыі ткацтва па матэрыялах раскопак гарадзішча каля в. Харомск Столінскага р-на, 28.8.1981; скіфскія наканечнікі стрэл ранняга жал. веку з гарадзішчаў Асарэвічы, Гарошкаў, Калочын, Чаплін, селішча Хільчыцы, 15.10. 1982; матэрыялы рэгіянальнай канферэнцыі маладых археолагаў «Прыбалтыка і яе сувязі ў перыяд ранняга сярэднявечча», 25.11.1983), У. Ісаенка (праблемы бел. археалогіі, 17.8.1984, 24.8.1984, 7.9.1984), Ісаенка, П. Лысенка, У. Палуян (праблемы нацыянальна-культурнай аўтаноміі Зах. Палесся, 17.8.1990), Л. Калядзінскі (даследаванні Мінскага замчышча, 15.5.1981; стварэнне музея стараж. Віцебска, 13.5. 1983), М. Кенька (раскопкі гарадзішча Маскавічы Браслаўскага р-на, 19.12. 1980), У. Ксяндзоў (засяленне першабытным чалавекам тэр. Беларусі, 13.7. 1984), З. Пазняк (гісторыя горадабудаўнічага развіцця Мінска, 6.1.1984), Л. Побаль (5-ы міжнародны кангрэс славістаў, 12.12.1980; сімпозіум «Усходнія славяне і Кіеўская Русь», 8.1. 1982; 5-ы міжнародны кангрэс слав. археалогіі, 29.11.1985; сувязі Мінска з Кіевам у старажытнасці па матэрыялах летапісаў і археал. раскопак, 23.10. 1987), П. Русаў (матэрыялы археал. раскопак Мінскага замчышча, 18.10.1985, 31.12.1987; выкарыстанне дэндраханалогіі ў археал. навуцы, 14.3.1986), Я. Садоўскі (з гісторыі Заслаўя, 19.2.1982; зрубы 12 ст. з Мінскага замчышча, гарадзішча Банцараўшчына, Заслаўя, 15.10.1982; транспарт у старажытных Брэсце, Мінску, Віцебску, Магілёве, Полацку; 14.1.1983), А. Трусаў (раскопкі ў Гродне, сядзібы В. Ваньковіча ў Мінску, Лідскага замка, 17.7. 1981), Т. Тычына (раскопкі Верхняга горада ў Мінску, 31.10.1979), Н. Цыкунова (матэрыялы даследавання археал. помнікаў эпохі неаліту на тэр. Мазырскага р-на, 30.10. 1981), В. Шадыра (раскопкі гарадзішчаў і паселішчаў жал. веку ў Віцебскай вобл., 18.2.1983), Г. Штыхаў (раскопкі Мінскага замчышча, 5.9.1986, 12.9.1986; прынящце хрысціянства на Полацкай зямлі — па матэрыялах летапісаў і археал. знаходак, 26.8.1988, 2.9.1988, 9.9.1988; даследаванні Віцебскага Верхняга замка. 29.12.1989) і інш. *А. У. Ільюцік.*

**НАГА́ТА** (ад араб. Нагд паўнавартасная, адборная манета), рэальная (першапачаткова — абазначэнне куфіцкага *дырхема*) і лікавая грашовая адзінка Стараж. Русі. У 11 ст. Н.=1/20 *грыўні кун* (прыблізна 2 1/2 г серабра)=1 1/4 *куны*=2 1/2 *разаны*=5—7 1/2 *веверыцы*, у 12—13 ст.=1/20 грыўні кун=2 1/2 куны або разаны.

*Літ.:* 1640.

**НАДДА́ЧА,** практыка грашовых разлікаў на рынках Рэчы Паспалітай у 2-й пал. 17 ст., пры якой сума ў сярэбранай або білоннай манеце пры выплаце яе меднымі солідамі *(барацінкамі)* патрабавала даплаты. Паводле пастановы сейма 1677 парытэтам 100 *злотых* у *манеце добрай* з'яўляліся 170 злотых у медных солідах; у 1695 у Магілёве *талер* адпавядаў 6 злотым у сярэбранай або 6 злотым і 10 грошам у меднай манетах.

*Літ.:* 1585.

**НАЖНІ́ЦЫ,** ручны жал. інструмент для рэзання і стрыжкі. У Еўропе вядомы з 3 ст. да н. э.

Уяўлялі сабой 2 клінковыя нажы, злучаныя пругкай дугападобнай пласцінай (спружынай). У сярэднявеччы акрамя спружынных існавалі шарнірныя нажніцы, якія паявіліся на тэр. Усх. Еўропы ў 10 ст. Іх ножападобныя пласціны ў месцы перакрыжавання злучаліся шарнірам, на адваротных канцах мелі кольцы для пальцаў рукі. Па канструкцыйных асаблівасцях і форме яны падзяляліся на кравецкія, гарбарныя, кнотавыя і інш. У археал. матэрыялах Беларусі 13—18 ст. добра вядомы нажніцы ўсіх гэтых тыпаў. Колькасна пераважаюць шарнірныя. Спружынныя больш характэрны для паселішчаў сельскага тыпу. Яны дайшлі да нас пад назвай «авечых».

*Літ.:* 5, 552, 826. *Г. М. Сагановіч.*

**НАЗЕ́МНАЕ ЖЫТЛО́,** агульнапрынятая ў археалогіі назва стараж. жылой пабудовы, якая ставілася непасрэдна на паверхні зямлі. Узнікла ў эпоху палеаліту і ўяўляла сабой лёгкія часовыя жытлы, якія засцерагалі ад непагадзі. У познім палеаліце і мезаліце побач з паўзямлянкавымі жытламі існавалі круглыя або авальныя ў плане Н. ж. тыпу чумаў з агнішчамі ўнутры. У неаліце пашырыліся круглыя або авальныя (у канцы неаліту прамавугольныя) у плане жытлы слупавой канструкцыі пл. 12—15 м² з агнішчамі ў выглядзе каменнай вымасткі, часам абкладзенай па краях буйнымі камянямі або заглыбленай у зямлю на 0,1—0,2 м. Перакрыцце апіралася на слуп, які размяшчаўся ў цэнтры жытла. У бронзавым веку існавалі прамавугольныя ў плане Н. ж. слупавой канструкцыі з адкрытымі агнішчамі і двухсхільнымі перакрыццямі.

У раннім жал. веку пашырыліся больш складаныя і разнастайныя па архіт. асаблівасцях Н. ж., якія існавалі побач з паўзямлянкамі. Для плямён *мілаградскай культуры* і *зарубінецкай культуры* характэрны аднакамерныя квадратныя або прамавугольныя ў плане Н. ж. слупавой канструкцыі пл. ад 10 да 20—24 м². Характэрная асаблівасць мілаградскіх жытлаў — наяўнасць выступу прамавугольнай, круглай ці авальнай форм у адной з сцен або вуглоў. Агнішчы часам заглыбляліся ў зямлю на 0,1—0,5 м. Двухсхільныя стрэхі апіраліся на цэнтр. і дадатковыя слупы, якія размяшчаліся на адной лініі. Н. ж. плямён *штрыхаванай керамікі культуры* і *днепра-дзвінскай культуры* былі аднолькавыя і ўяўлялі сабой доўгія дамы слупавой канструкцыі з бярвён (таўшч. 0,25—0,3 м), падзеленых на некалькі (ад 2 да 5) жылых памяшканняў пл. ад 10—15 да 20—25 м². Унутры памяшканняў былі агнішчы круглай, авальнай або падковападобнай форм з пласта пяску 0,1—0,15 м, абкладзенага камянямі ці валікамі гл...



**Наканечнік** кап'я. 1-я пал. 2-га тысячагоддзя да н. э.



**Наканечнікі** стрэл 10—13 ст. з гарадзішча Кульбачына (Шчучынскі р-н).



**Налучча** з пятлёй для мацавання. Рэканструкцыя Г. В. Штыхава.

ны (дыям. круглых агнішчаў 1,1—1,5 м, даўж. авальных 1,5—1,8 м, шыр. 0,8—1,3 м). У 4—5 ст. паявіліся аднакамерныя жытлы, разлічаныя на малую сям'ю. У плямён *банцараўскай культуры* існавалі наземныя і паўзямлянкавыя жытлы. Большасць Н. ж. пл. 10—15 м² мелі чатырохвугольную форму, слупавую і зрубную канструкцыі. Агнішчы ў выглядзе каменнай вымасткі (таўшч. 0,1—0,12 м), абмазанай глінай, круглай (дыям. 1,7 м) або авальнай (даўж. 2,4 м, шыр. 2,1 м) формы размяшчаліся пасярэдзіне жытла, часам траплялiся печы-каменкі. Перакрыцці двухсхільныя. Для эпохі Стараж. Русі характэрны Н. ж. з бярвён, аднакамерныя з двухсхільнай страхой. Унутры, у адным з кутоў, на драўляных насцілах («апечках») былі глінабітныя печы без комінаў. У Н. ж. сельскіх паселішчаў былі печы-каменкі. На аснове стараж. Н. ж. развіліся разнастайныя тыпы і формы бел. нар. жылля.

*Літ.:* 460, 772, 785, 847, 848, 1289.
*А. Р. Мітрафанаў.*

**НАКАНЕ́ЧНІКІ,** элемент ручной кідальнай зброі. Выраблялiся з каменю, косці, дрэва, металу. Мацаваліся да канца дрэўка *дзіды, кап'я, стралы, суліцы* і інш. Мацавалі Н. да дрэўка рэчывам, якое звязвае (смала, бярозавы вар і інш.). Першыя Н. вядомы з эпохі верхняга палеаліту. Найбольш Н. сустракаюцца на помніках эпох мезаліту, неаліту, бронзы. Форма і памеры Н. розныя і залежаць ад таго, у які час іх выраблялі і да якой культуры яны належаць. *У. П. Ксяндзоў.*

**НАЛУ́ЧЧА,** футарал для лука. Рабілі яго з дрэва, абцягвалі скурай. Як і *калчан*, Н. насілі на рэмені, які мацаваўся з дапамогай касцяных петляў. Петлі Н. 12—13 ст. знойдзены ў Барысаве і Друцку.

*Літ.:* 763.

**НАМІНА́Л** (лац. nominalis ад nomen імя) у нумізматыцы, значэнне вартасці манеты, банкноты, папяровага грашовага знака, нададзенае *эмітэнтам* і кратнае асн. грашовай адзінцы або яе лікавай фракцыі. Пры неразвітых *грашовых сістэмах*, якія не мелі сістэмы Н. і абыходзіліся манетамі аднаго Н., не было неабходнасці яго пазначэння.

На манетах рознай вартасці антычнай Грэцыі і ранніх выпускаў рэспубліканскага Рыма замест Н. чаканілі адпаведныя выявы, у сярэдзіне 3 — канцы 2 ст. да н. э. на манетах Рымскай рэспублікі Н. пазначаецца рымскімі або грэчаскімі лічбамі. Пазначэнне Н. стала ўжывацца на манетах апошніх рымскіх імператараў, на візантыйскіх медных манетах часоў імператара Анастасія I [491—518]. У практыцы манетнай справы Еўропы да 16 ст. пазначэнне Н. адсутнічае, у Расійскай дзяржаве з'явіўся ў пач. 18 ст. на «рэгулярных» манетах Пятра I [1682—1725]. З 18 ст. Н. часцей быў цэнтрам кампазіцыі *аверса* або *рэверса* манеты, з канца 19 ст. назіраецца тэндэнцыя да павелічэння памераў лічбавых элементаў Н. і памяншэння літарных і становіцца асноўным для манет 20 ст.

*Літ.:* 1538, 1565, 1626. *І. І. Сінчук.*

**НАМІНА́ЛЬНАЯ ВА́РТАСЦЬ** манеты, вартасць манеты, якая дэкларуецца асобай, ад імя якой выконваецца яе вытворчасць і выпуск у абарачэнне (гл. *Эмітэнт*). Не абавязкова супадае з *рэальнай вартасцю* манеты. Напр., Н. в. тымфаў 1663—66 была 30 грошаў, а рэальная — 12.

**НАМІ́СМА,** намізма (грэч. nomisma манета ад nomos закон), у познарымскай і ранневізантыйскай імперыях — назва любой залатой манеты, у 8—13 ст. у Візантыйскай імперыі — назва *соліда.* На тэр. Беларусі Н. зрэдку абарачалася ў канцы 10 — 2-й трэці 11 ст.




**Намісма.** Візантыя. 1. Канстанцін VII [913—959]; 2. Канстанцін VII і Раман II [945—959].



**Т. Нарбут.**

**НА́РБУТ** Тэадор [Фёдар Яўхімавіч; 28.10(8.11).1784, б. маёнтак Шаўры Лідскага пав., цяпер Воранаўскі р-н — 14(26).11.1864], гісторык і археолаг. Скончыў Віленскі ун-т (1803). У 1803 прыняты ў Пецярбургскі корпус кадэтаў. У 1804 удзельнічаў у рабоце камісіі па распрацоўцы праекта рэгуляцыі Нёмана. Удзельнік руска-пруска-французскай (1806—07) і руска-шведскай (1808—09) войнаў (капітан рус. арміі, ваенны інжынер). Ёсць меркаванні, што ён аўтар праекта Бабруйскай крэпасці і ўдзельнік яе будаўніцтва. З 1812 жыў у сваім маёнтку, даследаваў гісторыю ВКЛ. Першы на Беларусі даў вызначэнне курганам як месцам стараж. пахавання. Вёў раскопкі ў Падняпроўі, пазней — на радзіме. У 1820 адкрыў ямнае пахаванне недалёка ад Шаўраў Лідскага пав. Апісаў руіны крэпасці на Нёмане каля в. Лыскава Гродзенскага пав. Сцвярджаў, што дрыгавічы невядомага паходжання жылі каля Кіева. Памылкова адносіў яцвягаў да скіфскіх плямён. Геральдыку Беларусі не лічыў старажытнай, паколькі аналагічная існавала і ў суседзяў. Даследаваў *Лідскі замак* і выказаў меркаванні паводле прызначэння кожнага яго пакоя. Збіраў і вывучаў помнікі археаграфіі. Адшукаў у Старым Быхаве адну з першых хронік 16 ст. і зрабіў з яе выпіскі пра пахавальны абрад. На думку Н., багатым насыпалі больш высокія курганы, а бедным і, паводле хронікі, злым і скупым — меншыя. Аўтар «Гісторыі літоўскага народа» (т. 1—9, 1835—41; падзеі davёў да 1569), у 1-м томе якой змясціў табліцу сваіх знаходак. Увёў у навуковы ўжытак шэраг крыніц, у т. л. і Хроніку Быхаўца (1846). Меў багатую калекцыю археал. матэрыялаў. Апублікаваў шэраг артыкулаў (пераважна ў «Гродненских губернских ведомостях») пра Ліду, Наваградак, Індуру і інш. Займаўся пытаннямі стараж. міфалогіі, этнаграфіі, фалькларыстыкі.

*Тв.:* O kurhanach. Badanie starożytności Litewskich // Tygodnik Wileński. 1818. T. 7, № 123; Pomniki do dziejow litewskich... Wilno, 1846; Pomniejsze pisma historyczne: Szczegolnie do historyi Litwy odnoszące się. Wilno, 1856.

*Літ.:* 513, 518, 1200, 1236.
*Г. А. Каханоўскі.*

**НА́РВЕНСКАЯ КУЛЬТУ́РА,** археал. культура неалітычных плямён, якія ў 4—3-м тысячагоддзях да н. э. жылі на тэр. паўд.-ўсх. Прыбалтыкі і паўн. Беларусі. Насельніцтва займалася паляваннем, рыбалоўствам, збіральніцтвам, у канцы неаліту — земляробствам і жывёлагадоўляй. Паселішчы, стаянкі размяшчаліся па берагах азёр і рэчак па ўсім Па-

дзвінні, у басейне Віліі, на верхняй Бярэзіне Дняпроўскай. Выяўлены наземныя жытлы з агнішчамі, разнастайныя прылады працы і зброя з крэменю, рога і косці, гліняны посуд, касцяныя і бурштынавыя ўпрыгожанні і творы *першабытнага мастацтва*. Для ранняга этапу гэтай культуры найб. характэрны біканічныя наканечнікі стрэл, матыкі з прасвідраванымі адтулінамі, долатападобныя вырабы са скошаным лязом, шырокаадкрытыя прысадзістыя вастрадонныя гаршкі з грабеньчатымі расчосамі на паверхні сценак, у якіх быў дамешак з тоўчаных ракавін і валакністых раслін. Гаршкі пад краем венчыкаў былі ўпрыгожаны глыбокімі круглымі ямкамі, сценкі разрэджана аздоблены адбіткамі тонкага грэбеня, насечкамі, наколамі, пракрэсленымі лініямі. У познім неаліце, пераважна пад уплывам суседніх культур, сфарміраваўся шэраг лакальных варыянтаў. Найб. актыўна на Н. к. ўплывала *тыповай грабеньчата-ямкавай керамікі культура*, носьбіты якой у сярэдзіне 3-га тысячагоддзя да н. э. пачалі прасочвацца ў паўд.-ўсх. Прыбалтыку. У гэты перыяд на Пн свайго арэала Н. к. спыніла існаванне, а на Беларусі, дзе ўплывы былі слабейшыя, утварыўся крывінскі варыянт Н. к. Гэты варыянт А. М. Мікляеў лічыць асобнай усвяцкай культурай. Асаблівасці крывінскага варыянта найб. праяўляліся ў кераміцы. У познім неаліце на Пн Беларусі прадстаўнікі Н. к. выкарыстоўвалі прысадзістыя гаршкі з круглаватымі днішчамі і гладкімі сценкамі, якія захавалі ракавінны дамешак. Брыжы гаршкоў былі патоўшчаныя і скошаныя ўсярэдзіну, іх паверхні аздабляліся разрэджаным арнаментам, у т. л. фігуркамі змей, птушак, абрысамі раслін. Найб. значныя помнікі Н. к.: *Скема, Галоўск, Асавец, Зацэнне*.

*Літ.:* 119, 285. *М. М. Чарняўскі.*

**НАРВЯНСКІ ЦЫКЛ**, гл. ў арт. *Каморніцкая культура*.

**«НА́РЫСЫ ПА АРХЕАЛО́ГІІ БЕЛАРУ́СІ»**, «Очерки по археологии Белоруссии». Падрыхтаваны археолагамі, навуковымі супрацоўнікамі Ін-та гісторыі АН БССР. Выдадзены ў Мінску на рус. мове ў двух частках. У 1-й частцы (1970, рэдакцыйная калегія: У. Ф. Ісаенка, А. Р. Мітрафанаў, Г. В. Штыхаў) асвятляюцца вынікі вывучэння помнікаў першабытнаабшчыннага ладу па эпохах: сярэдні і верхні палеаліт, найб. старажытныя археал. культуры каменнага веку; мезаліт, неаліт, бронза, узаемаадносіны буйных этнічных груп, грамадскае развіццё; ранні жал. век, характарыстыка мілаградскай, зарубінецкай, штрыхаванай керамікі, днепрадзвінскай культуры, помнікі 6—8 ст. н. э. 2-я частка (1972, пад рэдакцыяй Г. В. Штыхава, Л. Д. Побаля) прысвечана археалогіі стараж. зямель Беларусі 9—13 ст. Разглядаюцца ўсх.-слав. саюзы плямён, якія жылі на тэр. Беларусі (полацкія крывічы, дрыгавічы, радзімічы), пытанні культуры ўсх.-літ. курганоў, ятвягаў. Выкладзены вынікі даследаванняў сельскіх паселішчаў, стараж. гарадоў. Разглядаецца развіццё сельскай гаспадаркі, рамяства, гандлю, грашовага абарачэння. Абагульнены звесткі пра архіт. помнікі, творы прыкладнога мастацтва, помнікі нумізматыкі, сфрагістыкі і інш. Адзначана, што Кіеўская Русь была этапам этнічнай гісторыі трох усх.-слав. народаў — рускага, украінскага, беларускага — у працэсе іх станаўлення. *Г. В. Штыхаў.*

**НАСА́ТКА**, посуд у выглядзе чашы з 2 ручкамі па баках і злівам у форме носа. Выкарыстоўвалі як рукамыйнік, падвешваючы да столі. Вядомы тэракотавыя і паліваныя. Знойдзены пры раскопках Мсціслава і Віцебска. Віцебская Н. выш. 11,5 см, дыям. 19 см, звонку і ўсярэдзіне накрыта зялёнай палівай. У крыніцах 17 ст. ўпамінаецца пад назвай «насадка», пад ёй вядома ў лексіцы ўсх. Беларусі да пач. 20 ст.

*Літ.:* 440. *Л. У. Калядзінскі.*

**НАСО́ВІЧЫ**, селішча каля в. Насовічы Добрушскага р-на. За 2 км на З ад вёскі. на краі 3—4-метровай надпоймавай тэрасы правага берага р. Вуць. Пл. 124×50 м. Адкрыў у 1981 А. А. Макушнікаў, у 1983 даследаваў 244 м². Культурны пласт 0,2—0,6 м. Выяўлены паўзямлянкавае чатырохвугольнае жытло памерам да 4,4×4,1 м, яма цэнтр. апорнага слупа, адкрыты ачаг. Пабудова адносіцца да *калочынскай культуры*.

Знойдзена 76 фрагментаў керамікі (пераважна буйных неарнаментаваных гаршкоў рабрыстай і слабапрафіляванай форм), ляпная і раннеганчарная кераміка 2-й пал. 1-га тысячагоддзя н. э., гліняныя ўсечана-біканічныя праслíцы з шырокімі адтулінамі, бронзавая пласцінка П-падобнай формы, жал. стрыжань, шлак. Да 10 — пач. 11 ст. належаць 2 ямы, у якіх знойдзены абпаленыя камяні, абпаленая і неабпаленая гліна, ляпная кераміка роменскага тыпу, фрагменты раннеганчарнага стараж. посуду, жал. нажа, гліняных праслíц, шыла, касцяная ручка, сярэбрана-шкляная лімонападобная пацерка, асялок. У культурным пласце выяўлена кераміка 1-й пал. 3-й чвэрці і канца 1-га тысячагоддзя н. э., фрагменты посуду 12—13 ст., жал. нажоў, сякер, крэсіва, асялкоў, утулка наканечніка стралы, гліняныя праслíцы, сердалікавая 14-гранная пацерка, шкляныя пацеркі (жоўтая цыліндрычная і фіялетавая лімонападобная). Паселішча датуецца некалькімі этапамі: 1—3 ст., 5—7 ст., магчыма, 8—9 ст., 10 — пач. 11 ст.

*Літ.:* 729. *А. А. Макушнікаў.*

**НА́ЎРЫ**, курганны могільнік крывічоў і дрыгавічоў каля в. Наўры Мядзельскага р-на. За 1 км на Пд ад вёскі. Складаецца з 2 груп: адна (10 насыпаў) на ўскрайку лесу і ў полі, другая (67 насыпаў) за 200 м на ПдУ ад першай, у лесе. Выш. курганоў 0,4—2 м, дыям. 4—12 м (найчасцей 6—8). Адкрылі і даследавалі 29 курганоў у 1934 Г. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіч, у 1987 А. М. Плавінскі і В. Н. Рабцэвіч — 9. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце галавой на З, часта на попельнай падсыпцы. У адным кургане — трупаспаленне.

Знойдзены нажы, сякера з шырокім лязом, рэшткі драўлянага посуду, ганчарны посуд, пацеркі (золаташкляныя, бурштынавыя, з горнага хрусталю), бісер, падвескі, бронзавыя пярсцёнкі, спражкі, вітая бронзавая грыўня, сярэбраная бляшка з арнаментам, зорчатая фібула, двухстворкавыя шарападобныя бразготкі, крыжык з шарападобнымі канцамі, медныя залачоныя пласцінкі-драбніцы з выемчатай эмаллю чырвонага колеру. Датуецца 11—12 ст.

*Я. Г. Звяруга, А. М. Плавінскі.*




Бронзавыя падкованападобныя фібулы (1, 2, 4, 7—10), металападобная падвеска (3), фрагмент тканіны (5), шыйная грыўня (6) з курганнага могільніка **Наўры**.

**НА́ЧА**, стаянка позняга бронзавага веку (1-я пал. 1-га тысячагоддзя да н. э.) каля в. Нача Воранаўскага р-на. За 300 м на ПнЗ ад вёскі, ва ўрочышчы Плітніца, на дзюне сярод затарфаванага левабярэжнага поплаву р. Нача. Абследаваў у 1967 М. М. Чарняўскі. Культурны пласт таўшч. 0,6 м. Знойдзены крамянёвыя прылады працы і заштрыхаваная пласкадонная кераміка. У пач. 20 ст. В. А. Шукевіч раскапаў тут могільнік жал. веку. *М. М. Чарняўскі.*

**«НАШ КРАЙ»**, часопіс Цэнтр. бюро краязнаўства пры Інбелкульце (з 1929 пры Беларускай АН). Выдаваўся ў 1925—32 (з 1930 пад назвай «Савецкая краіна») на бел. мове. Мэта выдання — азнаямленне шырокіх колаў грамадскасці з метадамі, формамі і задачамі краязнаўчай работы. У часопісе друкаваліся інструкцыі, метадычныя дапаможнікі, навуковыя праграмы па вывучэнні Беларусі ў гіст., этнаграфічным, прыродазнаўчым і інш. аспектах, змяшчаліся артыкулы бел. краязнаўцаў, у т. л. матэрыялы па археалогіі: апытальныя лісты па збору звестак пра «святыя камяні», каменныя выявы і інш. помнікі старажытнасці, бібліяграфія па археалогіі. У часопісе надрукавана каля 20 артыкулаў па археал. тэматыцы. Часопіс адыграў вялікую ролю ў развіцці краязнаўства на Беларусі. Закрыта ў сувязі са згортваннем працэсу беларусізацыі.

*В. С. Вяргей.*

**НЕААНТРАПЫ** (грэч. néos новы + + ánthrōpos чалавек), людзі сучаснага фізічнага тыпу, якія жылі 50—40 тыс. г. таму назад. Гл. *Краманьёнцы.*

**НЕАЛІТ** (грэч. néos новы + líthos камень), новы каменны век, апошні перыяд *каменнага веку.* Пачаўся ў 8-м тысячагоддзі да н. э. на Блізкім Усходзе, потым у Індакітаі як эпоха пераходу да вытворчай гаспадаркі. У Еўропе працягваўся з 6-га да канца 3-га тысячагоддзя да н. э. На ПдЗ Беларусі наступіў у канцы 5-га тысячагоддзя да н. э. У эпоху Н. пашырыліся шліфаваныя каменныя прылады працы, вынайдзены гліняны посуд, зарадзіліся земляробства і жывёлагадоўля, дасягнуў росквіту мацярынска-радавы лад. На тэр. Беларусі ў Н. жылі плямёны днепра-данецкай, верхнедняпроўскай, нёманскай, нарвенскай, а таксама тыповай грабеньчата-ямкавай керамікі, лейкападобных кубкаў, шарападобных амфар культур (гл. адпаведныя арт.). Першыя 4 племянныя групы ўтварылі вял. *этнакультурную вобласць*, цэнтр. месца ў якой займала тэр. стараж. Беларусі. Эпоха Н. скончылася ў 2000—1800-я г. да н. э. Некаторыя даследчыкі вылучаюць напярэдадні Н. асобны перыяд — протанеаліт. У гэты час вырабляліся прылады працы, што нагадвалі неалітычныя. Насельніцтва між тым не займалася вытворчай гаспадаркай. Іншы раз не ведала яшчэ і гліанага посуду. Пачатак протанеаліту на 1—2 тысячагоддзі апярэджвае Н.

*Літ.:* 798, 847. *У. Ф. Ісаенка.*

**НЕАЛІТЫЧНАЯ «РЭВАЛЮЦЫЯ»**, пераход стараж. насельніцтва ад прысваення гатовых дароў прыроды шляхам рыбалоўства, збіральніцтва і палявання да вытворчай гаспадаркі — земляробства і жывёлагадоўлі.

Уяўляе сабой найб. глыбокі і значны за ўсю гісторыю чалавецтва гасп. ўздым, які выклікаў рэзкія перамены ва ўзаемаадносінах чалавека і прыроды. Тэрмін уведзены ў 1950 Г. Чайлдам. Пачалася ў 8—7-м тысячагоддзях да н. э. на Блізкім Усходзе, у Месапатаміі, даліне р. Інд (гл. *Земляробства*) і паступова распаўсюдзілася ў паўн. напрамку. Н. «р.» папярэднічаў этап развітой гаспадаркі — актыўнага рыбалоўства і спецыялізаванага палявання. Надыход эпохі неаліту ў Еўропе часта вызначаецца па наяўнасці прыкмет авалодання новымі спосабамі гаспадарання. Так, земляробчыя культуры спрыялі вынаходніцтву і развіццю керамічнай вытворчасці, ткацтва, мастацтва. Н. «р.» прывяла да істотных змен у сацыяльна-эканам. ладзе, рэлігійных уяўленнях, дэмаграфічных працэсах, садзейнічала замацаванню племянных тэрыторый. У 4-м тысячагоддзі да н. э. яна дакацілася, відаць, з Валыні да старaж. плямён, што жылі на ПдЗ Беларусі. Дзякуючы ўплыву земляробчых культур з ПдЗ (лінейна-стужкавай керамікі культура), Пд (трыпольская, кіеўская групы днепра-данецкая культура), пазней з З (культура Эртэбёле, лейкападобных кубкаў і шарападобных амфар) і ПдУ (сярэднедняпроўская культура шнуравой керамікі), земляробства і жывёлагадоўля за наступныя 2000 гадоў распаўсюдзіліся да паўн. межаў Беларусі. Аднак яшчэ на працягу тысячагоддзя яны не маглі выцесніць традыцыйныя спосабы здабычы ежы. Н. «р.» скончылася ў перыяд пераходу да ранняга жал. веку (сярэдзіна 1-га тысячагоддзя да н. э.), калі эканоміка ўсяго насельніцтва канчаткова стала вытворчай.

*Літ.:* 536, 798, 1278. *У. Ф. Ісаенка.*



Знаходкі з курганнага могільніка **Наўры.**



Бронзавы бранзалет 4—5 ст. з могільніка **Нача.**

**НЕАНДЭРТАЛЬЦЫ** (Homo neandertalensis), палеаантрапы, старажытныя людзі, якія жылі ў эпоху палеаліту. Назву атрымалі ад даліны Неандэрталь у Германіі, дзе ў 1856 былі знойдзены рэшткі шкілета выкапнёвага чалавека. Пазней рэшткі Н. знойдзены ў розных мясцінах Еўропы, Азіі, Афрыкі (акрамя Амерыкі і Аўстраліі). Паводле марфалагічных прыкмет і часу існавання падзяляюцца на 2 групы. Раннія Н., рэшткі шкілетаў якіх знойдзены ў гротах Сакапасторэ (Італія) і Эрынгсдорф (Германія), жылі каля 150 тыс. г. таму назад і былі звязаны з ашэльскай культурай. Для іх характэрны вертыкальны профіль твару, крыху рэдукаваны надброўны рэльеф, больш прагрэсіўная будова зубоў.

Па аб'ёму мозгу (ад 1200 $см^3$ да 1400 $см^3$) яны займаюць прамежкавае становішча паміж сучасным чалавекам і архантрапамі. Больш познія Н., рэшткі шкілетаў якіх знойдзены ў пячорах Ла-Шапель, Ле-Мусцье, Ла-Ферасі (Францыя), на паселішчы Стараселле (Крым), у гроце Тэшык-Таш (Узбекістан) і інш., жылі каля 80—35 тыс. г. таму назад і звязаны з развітой мусцьерскай культурай. У іх моцна развітае надброўе, сціснуты зверху ўніз патылічны аддзел чэрапа, шырокая насавая адтуліна, наяўны патылічны валік і інш. Паводле шматлікіх прыкмет раннія Н. адрозніваюцца большым падабенствам да сучасных людзей, чым познія. У Н. фарміравалася абстрактнае мысленне, зараджаліся мастацтва і грамадская свядомасць. Н. былі першымі людзьмі, якія праніклі на тэр. паўд. і паўд.-ўсх. Беларусі ў сярэднім палеаліце.

*Літ.:* 31, 1167, 1259. *Л. І. Цягака.*

**НЕКАЛАЧ**, старажытны горад Полацкай зямлі. Упамінаецца ў летапісах Лаўрэнцьеўскім пад 1127, Іпацьеўскім пад 1128 у сувязі з паходам кааліцыі князёў на Полацкую зямлю: «...Новгородци придоша со Мстиславичем со Всеволодом к Неколочю» (у Іпацьеўскім летапісе к Неклочю). Да гэтага часу Н. не лакалізаваны. У Лепельскім р-не каля в. Бор на мысе Гарадзішча на воз. Некалач рэшткаў стараж. населенага месца не выяўлена. Мяркуюць, што ўпамянуты ў летапісах

геаграфічны пункт — воз. Некалач, на Пн ад Полацка, адкуль бярэ пачатак р. Палата (Невельскі р-н Пскоўскай вобл.). Магчыма, там быў фарпост Полацкай зямлі.

*Літ.:* 46, 923, 924. *Г. М. Семянчук.*

**НЕКА́СЕЦК,** археал. помнікі каля в. Некасецк Мядзельскага р-на.

Г а р а д з і ш ч а *штрыхаванай керамікі культуры, банцараўскай культуры* і эпохі Кіеўскай Русі. За 1,5 км на З ад вёскі, на мысе з стромкімі схіламі выш. 7—9 м ад асновы. Пляцоўка авальная, памер 47×39 м, паўд. схіл размыты, у агаленнях, на краях прасочаны культурны пласт. Адкрылі ў 1937 Г. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіч, даследаваў у 1953 А. Р. Мітрафанаў.

Выяўлены 3 культурныя гарызонты: у ніжнім знойдзены праколка, абломкі штрыхаваных рабрыстых слоікападобных гаршкоў, у сярэднім — фрагменты гладкасценных слабапрафіляваных і цюльпанападобных гаршкоў; у верхнім — ганчарная кераміка.

Гарадзішча датуецца 1—4, 6—8 і 10—11 ст.

С е л і ш ч а банцараўскай культуры і эпохі Кіеўскай Русі. Побач з гарадзішчам, уздоўж яго асновы на працягу 50—70 м. Плошча 1,3 га. Адкрыў у 1953, даследаваў 65 м² у 1965 Мітрафанаў. Культурны пласт 0,5—0,7 м.

Выяўлены рэшткі паўзямлянкавага жытла памерам 3,4×3,85 м, печы-каменкі, абломкі слабапрафіляваных і цюльпанападобных гаршкоў, бронзавы пярсцёнак, посахападобная шпілька, льячка з рэшткамі свінцу, гліняныя прасліцы, тыглі. Вышэй на схіле знойдзены абломкі ганчарнай керамікі, жал. гарпун, бронзавая бразготка.

Датуецца 6—8 і 9—11 ст.

*Літ.:* 241, 847. *А. Р. Мітрафанаў.*

**НЕКРО́ПАЛЬ** (грэч. nekros мёртвы + pólis горад) тое ж, што *могільнік.*

**НЕ́ЎРЫ,** старажытныя плямёны, якія, паводле сведчання Герадота, жылі ў 6—5 ст. да н. э. на Пн ад скіфаў-землябаробаў (гл. арт. *Скіфы*). Упамінаюцца ў 4-й кнізе «Гісторыі» Герадота ў сувязі з апісаннем паўн. мяжы Скіфіі і падзей скіфска-персідскай вайны 512 да н. э. Герадот апавядае, што Н. апранаюцца паскіфску, але мова і звычаі ў іх свае, прыводзіць легенду пра ператварэнне кожнага неўра раз у год на некалькі дзён у ваўка, падкрэсліваючы аднак, што ў легенду ён не верыў. Гэты сюжэт звычайна параўноўваюць са слав. легендамі пра ваўкалакаў. Месцам лакалізацыі Н., магчыма, былі Пд Беларусі, Кіеўшчына, стэпавыя тэрыторыі. Найбольш слушнай здаецца думка, што землі Н. знаходзіліся на ПдЗ Валыні, у верхніх цячэннях рэк Гарынь і Паўд. Буг. Некаторыя археолагі атаясамліваюць Н. з насельніцтвам мілаградскай культуры.

*Літ.:* 963, 964. *С. Я. Расадзін.*

**НЁМАНСКАЯ КУЛЬТУ́РА,** археал. культура неалітычных плямён, якія ў 4—3-м тысячагоддзях да н. э. жылі ў Бел. Панямонні, на левабярэжжы верхняй Прыпяці, ПнУ Польшчы і ПдЗ Літвы. Насельніцтва займалася паляваннем, рыбалоўствам, збіральніцтвам, у познім неаліце — земляробствам і жывёлагадоўляй. Мела наземныя жытлы на берагах рыбных вадаёмаў. Культура ў значнай ступені сфарміравалася на мясц. мезалітычнай аснове. У яе развіцці вылучаюць 3 этапы. Для ранняга (дубічайскага) этапу характэрны крамянёвы інвентар з мезалітычнымі рысамі і вастрадонная слабапрафіляваная кераміка з грабеньчатымі расчосамі на паверхні сценак, у якіх прыкметны валакністыя раслінныя дамешкі. Пад краем венчыкаў амаль заўсёды быў шэраг глыбокіх круглых ямак, арнамент складаўся з гарызантальных паясоў грабеньчатых адбіткаў, насечак, наколаў, пракрэсленых рысак. Сярэдні (лысагорскі) этап культуры сфарміраваўся пад уплывам *лейкападобных кубкаў культуры.* Крамянёвыя вырабы гэтага этапу набываюць неалітычны характар, гаршкі маюць выразную шыйку, раслінныя дамешкі ў гліне амаль знікаюць, паверхня пасудзін робіцца гладкай, ямкі пад краем венчыка замяняюцца глыбокімі наколамі. Акрамя ранейшага арнаменту з'яўляюцца адбіткі лінейнага штампа, тэкстылю, часта сустракаюцца наколы. Позні (дабраборскі) этап складваўся пад уплывам *шарападобных амфар культуры,* пазней — *шнуравой керамікі культуры.* Назіраецца росквіт крамянёвай індустрыі, шырока распаўсюджваюцца дасканала рэтушаваныя трохвугольныя наканечнікі стрэл, лістападобныя наканечнікі дзід, сярпы, паяўляюцца сякеры са звужанымі абушкамі і прышліфоўкай на лязе. Форма посуду ў большасці захоўваецца ранейшая, але на яе паверхні з'яўляецца заштрыхоўка, пад краем венчыкаў зноў узнікаюць круглыя ямкі, у арнаменце шырока выкарыстоўваюцца адбіткі лінейнага штампа, шнуравыя ўзоры. Нашчадкі носьбітаў Н. к. і ў пачатку 2-га тысячагоддзя да н. э. жылі на З Беларусі, суіснуючы з носьбітамі культуры шнуравой керамікі. Найбольш значныя помнікі гэтай культуры на Беларусі: *Кругліца, Камень, Ніз, Добры Бор, Русакова, Ярэмічы,* стаянкі каля в. *Русаковічы.*

*Літ.:* 460, 1289. *М. М. Чарняўскі.*

**НЁМАНСКАЯ МЕЗАЛІТЫЧНАЯ КУЛЬТУРА,** археал. культура плямён, якія ў 8—5-м тысячагоддзях да н. э. жылі на тэр. Літвы, паўн.-зах. Беларусі і некаторых суседніх раёнаў. Узнікла ў выніку кантактаў нашчадкаў познасвідэрскіх плямён з насельніцтвам іншых мясц. культур. Для Н. м. к. характэрны лістападобныя наканечнікі стрэл, ланцэтападобныя вастрыі, укладышы, трапецыі, авальныя сякеры, касцяныя вырабы. Носьбіты яе прынялі ўдзел у фарміраванні на тэр. паўд.-зах. Літвы і зах. Беларусі *нёманскай культуры.*

*Літ.:* 975. *М. М Чарняўскі.*

**НІ́ЖНЯЯ А́ЛБА,** паселішча бронзавага і жал. вякоў каля в. Ніжняя Алба Жлобінскага р-на. За 150 м на ПнЗ ад вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага Дняпра, каля могілак. Пл. 80 м². Выявіў і абследаваў у 1977 У. П. Ксяндзоў. Культурны пласт 0,2 м, разбураны ворывам. У агаленні сабраны рэшткі ляпной керамікі, адшчэпы, пласціны з крэменю. *У. П. Ксяндзоў.*

**НІ́ЖНЯЯ ТО́ШЧЫЦА,** група археал. помнікаў каля в. Ніжняя Тошчыца Быхаўскага р-на.

С е л і ш ч а. За 2 км на Пд ад вёскі, ва ўрочышчы Падлужжа, на левым беразе р. Ташчанка пры ўпадзенні яе ў Дняпро. Адкрыў і даследаваў у 1962 Л. Д. Побаль. Селішча разворваецца, знаходкі (фрагменты грубаляпной гладкасценнай і ганчарнай керамікі, абпаленае каменне, шлак) трапляюцца ўздоўж ракі на працягу 400 м пры шыр. 200 м. У 2 раскопах агульнай пл. 108 м² культурны пласт да 0,4 м.

Выяўлены паўзямлянка і шмат розных ям. Знойдзены 180 абломкаў ляпнога посуду, у т. л. фрагменты глянцаваных пасудзін і кераміка з расчосамі, жал. нож, біканічнае прасліца, сярэбраны пярсцёнак, рэшткі ганчарнага посуду. Селішча адносіцца да позняга этапу зарубінецкай культуры (2—5 ст.), банцараўскай культуры (6—8 ст.) і эпохі Кіеўскай Русі.

Б е с к у р г а н н ы м о г і л ь н і к. За 80 м на Пд ад селішча. Адкрыў у 1962 і даследаваў у 1963 Побаль. На пл. каля 2 га прасочваюцца знаходкі кальцыніраваных касцей. Раскапана 2040 м². Выяўлена паўзямлянка памерам 3,2×2,8 м з каменным агнішчам, 3 гасп. ямы, у адной з іх разам з керамікай бронзавага веку знойдзены гладкасценны венчык ад гаршка мілаградскай культуры. Пахавальны абрад — трупаспаленне, пахаванні ямныя (4), урнавыя (4), мяшаныя (4). Знойдзены абломкі ляпных пасудзін, глінянае біканічнае прасліца з вял. адтулінай. Могільнік адносіцца да 1-га тысячагоддзя н. э.

У наваколлі вёскі знаходзяцца яшчэ 3 селішчы і 2 могільнікі 1-га тысячагоддзя н. э.

*Л. Д. Побаль.*

**НІЗ,** стаянка эпохі неаліту каля в. Ніз Слонімскага р-на. За 600 м на ПнЗ ад вёскі, на левабярэжнай тэрасе р. Шчара, абмежаванай з У і З ярамі, з Пн і Пд — схіламі тэрасы. Памеры 30×32 м, выш. 4,5 м. Выявілі ў 1963 В. Р. Супрун і М. М. Чарняўскі, даследаваў у

1965 Чарняўскі (104 м²). Культурны пласт таўшч. да 0,6 м.

Выяўлены агнішчы, крамянёвыя прылады працы, абломкі вастрадоннага посуду з крыху заштрыхаванай паверхняй, арнаментаванымі наколамі і адбіткамі лінейнага штампа, вял. колькасць крамянёвых нерэтушаваных абломкаў, адшчэпаў і пласцінак, што сведчыць пра існаванне тут крэменеапрацоўчай майстэрні. Ёсць знаходкі бронзавага веку. На краі раскопу выяўлена пахаванне ў яме. Пахавальны абрад — трупаспаленне. Побач знойдзены чатырохгранная крамянёвая падшліфаваная сякера з моцна пашкоджаным лязом і плоская біканічная пасудзіна з штампаваным арнаментам. На краі тэрасы за Пн і Пд ад стаянкі трапляюцца знаходкі каменнага веку.

*Літ.:* 1289. *М. М. Чарняўскі.*

**НІКАДЗІ́МАВА**, гарадзішча *днепра-дзвінскай культуры* і больш позніх часоў каля в. Нікадзімава Горацкага р-на. За 600 м на ПдУ ад вёскі, на левым беразе р. Быстрай (прыток Проні), на мысе паміж 2 ярамі. Мае складаную сістэму ўмацаванняў. Купалападобны насып і папярочны вал дзеляць гарадзішча на 2 часткі: 40×36 м і 48×48 м. Вышыня пляцоўкі над поймай 12—18 м. З боку поля ўмацавана валам вышынёй 4,5 м, шырынёй да 20 м, з боку мыса — 2 валамі. Паміж імі і пляцоўкай западзіна ў выглядзе пляцоўкі дыяметрам 7 м. Вядома з 1903, абследавалі ў 1936 А. Дз. Каваленя, у 1978 В. І. Шадыра, у 1985 абследаваў, у 1986—91 даследаваў звыш 750 м² А. А. Седзін. Культурны пласт 1 м і болей.

Выяўлены рэшткі доўгай пабудовы слупавой канструкцыі, ад якой захаваліся слупавыя ямы і фрагменты абгарэлых бярвён. Пабудова была падзелена на асобныя памяшканні (жылыя і гаспадарчыя). Аналагічныя збудаванні вядомы на гарадзішчах-сховішчах Смаленшчыны (Тушамля, Слабада-Глушыца), датуюцца 5—7 ст. н. э. Знойдзены рэшткі вогнішчаў. На больш высокай частцы гарадзішча памерам 40×36 м культурны пласт не выяўлены (магчыма, яна выконвала абарончыя функцыі). У западзіне шмат камянёў. Знойдзены жалезныя наканечнікі коп'яў (лісце-, полымяпадобныя, двухшыпныя ўтулкавыя), дроцікаў (міндалепадобны і двухшыпны), стрэл (трохлопасцевыя тронкавыя), цуглі, шпоры, спражкі, нажы (з прамой і гарбатай спінкамі), шылы, пінцэты, фібулы, сярпы, долаты, кнотавыя трубачкі, рыбалоўны кручок, фрагмент сякеры, крыца і шлакі. Сярод вырабаў з бронзы фібулы (пальчатыя і двухпласцінністыя) бранзалеты, кольцы, падвескі ў выглядзе званочкаў, бляшкі. Выяўлены сярэбраныя бранзалет і падвеска, шкляныя, бурштынавыя і паставыя пацеркі, фрагменты керамічнага посуду, вырабы з гліны і каменю (біканічныя праслíцы, льячкі, ліцейныя формачкі, рыбалоўныя грузілы, тачыльныя брускі). У ліку цікавых знаходак зерні культурных раслін (ячменю, проса, пшаніцы, гароху, бабоў кармавых, аўса, жыта), косці свойскіх жывёл (буйной і дробнай рагатай жывёлы, каня, свінні, сабакі). Астэалагічны матэрыял даследавала В. В. Шчаглова. Асн. частка рэчаў і керамікі адносіцца да 3-й чвэрці 1-га тыс. н. э. Узрост помніка пацвярджаецца чатырма датамі паводле радыевуглярoднага метаду (1390±35; 1495±35; 1495±35; 1615±40 г. таму назад), атрыманымі ў лабараторыі фірмы «Санарэ» (г. Талін).

*Літ.:* 1048а, 1049. *А. А. Седзін.*

**НІСІ́МКАВІЧЫ**, група археал. помнікаў каля в. Нісімкавічы Чачэрскага р-на.

Г а р а д з і ш ч а. За 500 м на У ад вёскі, на левым беразе р. Покаць. Мясц. назва Курган. Пляцоўка авальная, памер 62×52 м, з боку поля ўмацавана валам выш. 1,5 м. Вядома з 1873. Абследавалі на пач. 20 ст. Е. Р. Раманаў, у 1976 М. А. Ткачоў, у 1982 С. Я. Расадзін. Даследавана 96 м². Культурны пласт 0,3—1 м.

У ніжнім гарызонце выяўлена кераміка мілаградскай, у верхнім — зарубінецкай культур, знойдзены абпаленыя камяні, гліняныя праслíцы і грузікі, бронзавае скроневае кольца, зерняцёрка і інш. У зах. частцы гарадзішча, за 4 м ад краю пляцоўкі выяўлены рэшткі пабудовы, арыентаванай па лініі Пн—Пд, памер 15×2—2,5 м, заглыблена ў мацярык на 0,5 м. Уздоўж зах. і ўсх. сцен пабудовы захаваліся рэшткі слупоў, на ўзроўні падлогі — 4 вогнішчы; у запаўненні пабудовы — попел, вуголле, кераміка зарубінецкай культуры. Магчыма, пабудова была часткай абарончай сістэмы зах. схілу. Гарадзішча заснаванае, відаць, насельніцтвам мілаградскай, пазней асвоена носьбітамі зарубінецкай культур.

С е л і ш ч а-1. За 300—350 м на ПдЗ ад вёскі, на левабярэжнай тэрасе р. Покаць, ва ўрочышчы Лысая гара. Выш. над узроўнем вады 5—7 м. Пляцоўка памерам 140×50 м. Адкрыў у 1982 і даследаваў 304 м² у 1982—83 А. А. Макушнікаў. Культ. пласт 0,2—0,8 м.

Знойдзены ў ніжнім пласце рэшткі 2 паўзямлянкавых пабудоў *калочынскай культуры*, фрагменты грубаляпнога посуду, косці жывёл, у верхнім фрагменты ганчарнага посуду, патэльні, гліняныя і шыферныя праслíцы, нажы, бронзавыя паясная накладка, пласціністы пярсцёнак, фібулы і інш. Ніжні пласт датуецца 5—7, верхні — 10 ст. Узнікла на месцы паселішча эпохі палеаліту.

С е л і ш ч а-2. За 250—350 м на ПдУ ад вёскі, за 200—250 м ад селішча-1, на правабярэжнай тэрасе р. Покаць, ва ўрочышчы Кургане. Пляцоўка выш. 3 м, памер 400×100 м, часткова перакрыта курганным могільнікам-2. Адкрыў у 1981 У. А. Літвінаў, даследаваў 1208 м² у 1984—85 Макушнікаў. Культурны пласт 0,3—0,4 м.




**Нісімкавічы.** Фібула з зааморфнымі канцамі (1), бранзалет (2), сяміпрамянёвае скроневае кольца радзімічаў (3), гронкападобная (5) і лапчастая (6) фібулы, конік (7) з курганнага могільніка, скроневае кольца (4) з гарадзішча.

Знойдзены ў ніжнім пласце рэшткі 2 жытлаў і 2 гасп. пабудоў паўзямлянкавага тыпу калочынскай культуры, фрагменты ляпнога посуду, бронзавага ўпрыгожання ў выглядзе трубкі, жал. нажы, праслíца, косці свойскага быка, у верхнім — ямы з рэшткамі металургічнай вытворчасці, жал. нажы, цвікі, стругі, цуглі, бранзалеты, язычковыя і пятлістыя падвескі, званочкі з крыжападобнай прарэззю, гузік, гліняныя тыглі, праслíцы і інш. Ніжні пласт датуецца 5—7, верхні — 9—10 ст. Узнікла на месцы паселішча эпохі неаліту і бронзавага веку.

С е л і ш ч а-3. За 700—800 м на Пд ад вёскі, на левабярэжнай тэрасе р. Покаць, ва ўрочышчы Белая Круча. Выш. над узроўнем вады 3—5 м. Пляцоўка памерам 110×50 м. Адкрыў і даследаваў 95 м² у 1985 Макушнікаў.

Знойдзены ў ніжнім пласце рэшткі пабудовы калочынскай культуры, фрагменты ляпнога посуду, гліняных праслíц, зерняцёркі, у верхнім — фрагменты ганчарнага посуду, бронзавая пятлістая падвеска, сярэбраныя і бронзавыя званочкі, падкоўападобныя фібулы, бронзавы гузік, паясная накладка з раслінным арнаментам. Ніжні пласт датуецца 5—7, верхні — 10—11 ст. Узнік-

ла на месцы паселішча каменнага веку.

Селішча-4. За 500—600 м на Пн ад вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Покаць. Выш. над узроўнем вады каля 3 м. Пляцоўка памерам 80×40 м. Разворваецца. Адкрылі ў 1982 Літвінаў і Макушнікаў. Культурны пласт 0,1—0,3 м. Знойдзены ляпны і ганчарны посуд. Датуецца жал. векам і перыядам ранняга феадалізму.





Пацеркі і касцяныя «качачкі» з курганнага могільніка Нісімкавічы.

Селішча-5. За 400 м на ПдУ ад вёскі, на левабярэжнай тэрасе р. Покаць. Пляцоўка памерам 220××110 м. Адкрыў у 1961 мясцовы настаўнік, даследавалі 196 м² у 1985 Макушнікаў і А. І. Драбушэўскі. Знойдзены фрагменты ляпнога посуду, прасліца, жал. нож. Датуецца 1-й пал.— сярэдзінай 1-га тысячагоддзя н. э. Узнікла на месцы паселішча эпохі бронзы.

Курганны могільнік радзімічаў. Побач з гарадзішчам, на левым і правым берагах р. Покаць, 43 насыпы выш. 0,7—2 м, дыям. 5—12 м. Вядомы з 1873, ёсць звесткі, што было 225 насыпаў, а р. Покаць працякала за межамі могільніка. Даследавалі ў 1886—88 Е. Р. Раманаў (10), у 1981, 1984—85 У. У. Багамольнікаў (28 насыпаў), абследаваў у 1976 М. А. Ткачоў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў насыпе на попельна-вугальнай падсыпцы, галавой часцей за ўсё на З.

Знойдзены ганчарны посуд, жал. нажы, рэшткі дубовых калод, сяміпрамянёвыя бронзавыя скроневыя кольцы, бранзалеты з завязанымі канцамі, лунніцы, васьмізубцовыя гронкападобныя і лапчастыя фібулы (адна фібула з зааморфнымі канцамі і язычкамі ў выглядзе чалавечай галавы), паясная спражка і паясныя кольцы, падвескі язычковыя і ў выглядзе крыжыкаў, сярэбраны пярсцёнак, пасярэбраныя і пазалочаныя шкляныя, паставыя, бурштынавыя, сердалікавыя пацеркі рознай формы. Датуецца 10—12 ст.

Бескурганны могільнік. На месцы селішча-1. У 1983 даследаваў 11 пахавальных ям Макушнікаў. Пахавальныя абрады — трупапалажэнне ў яме (3) і трупаспаленне па-за межамі могільніка (8).

Знойдзены крамянёвыя вырабы, кераміка сярэднедняпроўскай культуры, бронзавыя скроневыя кольцы, шыферныя праслíцы, рэшткі льняной тканіны. Пахаванні з трупаспаленнем датуюцца 10 ст., з трупапалажэннем — 12—13 ст.

*Літ.:* 147, 729, 966, 983, 988, 1115.
*У. У. Багамольнікаў, А. І. Драбушэўскі, А. А. Макушнікаў, С. Я. Расадзін.*

**НОБЛЬ** (англ. noble высакародны), залатая англійская манета высокай пробы. Выпушчана (маса 7,72 г) каля 1344 англійскім каралём Эдуардам III у гонар перамогі над французскім флотам пры Слёйсе (1340). На манеце змешчана выява карабля, таму ў пісьмовых крыніцах вядома і пад назвай «карабельнік» або «карабельны». Акрамя цэлага Н. выпускалі яго фракцыі вартасцю $^1/_2$ (маса 3,91 г) і $^1/_4$ (маса 2,17 г). Пры Эдуардзе IV [1461—83] з'явіўся новы тып Н.— разенобль або рыал. Манета абарачалася ў многіх еўрап. дзяржавах у вял. колькасці. Выпускалі шмат перайманняў Н. ў розных краінах з 14 ст., асабліва шмат у 16 ст. ў Нідэрландах. Вядомы унікальны экземпляр рус. пераймання Н., чаканенага Іванам III [1462—1505]. На Беларусі ў канцы 14—16 ст. Н. і яго фракцыі з'яўляліся самымі буйнымі наміналамі.

*Літ.:* 1567, 1615. *І. Ф. Масько.*

**НОВАЯ КАМЕНКА**, курганны могільнік *радзімічаў* паміж пасёлкамі Новая Каменка і Старая Каменка Жлобінскага р-на. Захаваліся 32 насыпы выш. 0,2—2,5 м, дыям. 8—18 м. Вядомы з 1873. У 1905 Е. Р. Раманаў раскапаў 8 курганоў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне галавою на З, трапляюцца пахаванні галавою на У. Пад галаву адной з пахаваных жанчын была пакладзена дошка.

4 насыпы былі без інвентару, у астатніх знойдзены сяміпрамянёвыя і адна сямілапчастае скроневыя кольцы, гладкія і арнаментаваныя лунніцы, пятлістыя падвескі, кручаная шыйная грыўня з гранёнымі галоўкамі на канцах, розныя тыпы пярсцёнкаў, 2 гладкія і 1 кручаны бранзалеты, скроневыя кольцы з завітком на адным канцы, разнастайныя пацеркі (пробны бісер, сінія шкляныя і інш.), тачыльны камень, лірападобная спражка і жал. паясное кольца, разбіты гаршчок. Абследаваў у 1975 У. У. Багамольнікаў.

Могільнік датуецца 11—12 ст.

*Літ.:* 980, 1046. *У. У. Багамольнікаў.*





Бронзавыя вітыя бранзалеты з завязанымі канцамі (зверху), пазалочаныя шкляныя пацеркі з сердалікам з курганнага могільніка Нісімкавічы.

**НОВЫ БОЛЕЦК**, гарадзішчы жал. веку і раннефеад. часу каля в. Новы Болецк Гарадоцкага р-на.

Гарадзішча-1 *днепра-дзвінскай культуры*. За 3 км на ПнЗ ад вёскі, каля былой в. Буракова (адсюль назва Буракова). З правага боку ад шашы на Гарадок. Пабудавана на высокім (да 20 м) узгорку сярод лясістай забалочанай мясцовасці. Памер 45×30 м, з Пн умацаваны валам і равамі. Выявілі ў 1934 К. М. Палікарповіч і А. М. Ляўданскі, у 1964—66 даследаваў 240 м² К. П. Шут, у 1988 В. І. Шадыра (92 м²). Культурны пласт 1,5—2,5 м. Выяўлены рэшткі жылых пабудов

слупавой канструкцыі, жалезаапрацоўчай майстэрні, гасп. ямы.

Знойдзены жалезныя сякеры (клінападобныя і накшталт кельта), жал. сярпы, сякеры, нож, іголка, наканечнікі стрэл, посахападобныя шпількі, касцяныя долаты і рукаяткі, гліняныя праслііцы, бронзавыя ўпрыгожанні, рэшткі гладкасценнага посуду слоікападобнай і прафіляванай форм, кераміка з адбіткамі тканін, з ямкамі і пракрэсленымі лініямі ў верхняй частцы пасудзін. Гарадзішча ўсходняга ці смаленскага тыпу. У больш позні час, магчыма, выкарыстоўвалася як сховішча.

З Пд да гарадзішча прымыкала селішча 3-й чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э., якое знішчана ў 1987 у выніку буд. работ.

Гарадзішча-2 жал. веку і раннефеад. часу. На ўсх. ускраіне вёскі, на мысе, утвораным 2 забалочанымі ярамі каля воз. Болецкае; з У абмываецца ручаём, рэчышча якога загрувашчана валунамі (адзін з іх мае форму дыска). Гарадзішча складаецца з 2 пляцовак, аддзеленых адна ад адной ровам, з боку поля — чатырохметровым валам, на якім ёсць валуны са знакамі ў выглядзе свастыкі. Каля падножжа гарадзішча ляжыць пляскаты валун трохвугольнай формы з заглыбленнем у цэнтры. Паўд. пляцоўка гарадзішча (45×30 м) пашкоджана варонкападобнымі западзінамі; паўн. Ляўко правяла раскопкі (116 м²) на зах. ускраіне паўд. пляцоўкі. Культурны пласт таўшч. больш за 1 м.

Выяўлены збудаванні з буйных валуноў, складзеных у выглядзе круглых або падоўжаных ячэек у адзін рад, прамавугольная пляцоўка з шчыльна складзеных камянёў. Знойдзены каменны крыж памерам 40×30 см, таўшч. 4—6 см. Пры расчыстцы верхняй часткі валуноў выяўлены кальцыніраваныя косці чалавека і жывёл, ніжэй валуноў на 0,2 м — спарахнелае дрэва, ніжэй валуновых збудаванняў на 0,5—0,6 м — шматлікія косці чалавека ў пе-




**Нобль.** Англія: 1. Эдуард III, 1344 (карабельнік); 2. Эдуард IV, 1464 — 83 (разенобль).



Камень з антрапаморфнай выявай з гарадзішча **Новы Болецк.**



Рэчы з гарадзішча **Новы Болецк.**



Каменная аснова для ідала або крыжа з гарадзішча **Новы Болецк.**



Каменныя магільныя агароджы з гарадзішча **Новы Болецк.**

пляцоўка круглаватая (36×25 м), па яе краі праходзіць вал выш. 1,5—4 м. Адкрылі ў 1934 А. М. Ляўданскі і К. М. Палікарповіч, у 1965 К. П. Шут заклаў шурфы ў цэнтр. частках абедзвюх пляцовак, у 1972 абследаваў Г. В. Штыхаў. Культурны пласт паўд. пляцоўкі больш за 1 м, у яго передмацерыковай частцы знойдзены косці чалавека, фрагменты ганчарнай гладкасценнай керамікі. На паўн. пляцоўцы пласт таўшч. 0,4 м (у цэнтры), знаходак не ўтрымліваў. У 1988—89 В. М.

рамяшаным выглядзе. Культурны пласт насычаны прадметамі эпохі Кіеўскай Русі: ключы, фрагменты замкоў, нажы, праслііцы, шкляныя бранзалеты, пацерка, фрагменты керамічнага посуду. Зафіксавана таксама шмат жал. цвікоў з драўлянымі валокнамі (верагодна, ад дамавін), знойдзены бронзавыя прадметы (званочак, пярсцёнак з рубленага шматраднага дроту, фрагмент літага бранзалета, падвеска, завушніца), кераміка (верагодна, 14—15 ст.).

Верагодна, у жал. веку гарадзішча было сховішчам, у 10—12 ст. функцыяніравала як паселішча, пазней тут былі могілкі.

*Літ.:* 1313, 1368.
*В. М. Ляўко, В. І. Шадыра.*

**НОВЫ БЫХАЎ,** археал. помнікі каля в. Новы Быхаў Быхаўскага р-на.

Стаянка-1 *сожскай культуры.* За 1,5 км на Пн ад вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага Дняпра, каля падножжа якой у Дняпро ўпадае р. Адаменка. Памер 40×150 м. Адкрыў у 1980 і даследаваў у 1982—83 В. Ф. Капыцін.

Выяўлены крамянёвыя канцавыя скрабкі, разцы (рэтушныя, двухгранныя і на рагу зламанай пласціны), вырабы з выемкамі, свідэройдны наканечнік стралы, праколка, вастрыі, пласціны-ўкладышы, адшчэпы, нуклеусы, адбойнікі.

Стаянка датуецца 10—8-м тысячагоддзямі да н. э.

Стаянка-2 эпохі неаліту. На паўн. ускраіне вёскі, каля могілак, за 100 м ад дарогі на Быхаў, на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага Дняпра. Адкрыў у 1904 Е. Р. Раманаў, абследавалі ў 1924—28 С. С. Шутаў, у 1926 І. А. Сербаў, у 1980—83 Капыцін. Культурны пласт разбураны эрозіяй.

Знойдзены нуклеусы, пласціны, адшчэпы, канцавыя скрабкі, разцы на рагу пласціны, нажы, фрагменты ямкава-грабеньчатай керамікі. Асобныя рэчы эпохі неаліту выяўлены на Пн ад моста, на правым беразе р. Адаменка каля яе вусця ва ўрочышчы Папова Грыва, на берагах азёр Радашова і Чыстая Лужа, неаліту і бронзавага веку — на Пд ад Новага Быхава па дарозе на в. Лазаравічы.

Гарадзішча ранняга жал. веку. Знаходзілася ў цэнтры вёскі. У сярэднявеччы разбурана, захаваўся земляны вал 14—17 ст. Напэўна, тут Раманаў знайшоў кераміку *мілаградскай культуры.*

Селішча. За 1 км на ПнУ ад вёскі, уздоўж высокага старога рэчышча Дняпра, ва ўрочышчы Радашава гара. Памеры 400×100 м. Адкрыў і даследаваў 16 м² у 1965 Л. Д. Побаль. Культурны пласт 0,5—0,7 м.

Выяўлены 10 розначасовых ям глыб. 0,4 м і адна гаспадарчая дыям. 1,4 м, глыб. 0,4 м. Знойдзены фрагменты ляпнога посуду бронзавага і ранняга жал. вякоў, ганчарная кераміка, у т. л. кераміка з расчосамі і глянцаваная.

Селішча датуецца 2 ст. да н. э.— 5 ст. н. э. (зарубінецкая культура) і раннефеад. часам.

Бескурганны могільнік позняга этапу зарубінецкай культуры. За 200 м на З ад селішча. Памеры 400×200 м. Выявіў і даследаваў у 1904 Раманаў. У 1927 300 м² даследавалі Сербаў і Шутаў, у 1952 240 м² Ю. А. Кухарэнка, у 1960, 1965—67 3550 м² Побаль. Могільнік моцна пашкоджаны ў Вял. Айчынную вайну.

Выяўлена каля 100 пахаванняў (з іх 6 Раманавым). Рэштکі крэмацыі змяшчаліся ў круглых і авальных ямах розных памераў і арыенціровкі, трапляюцца адзінкавыя урнавыя пахаванні. Пахавальны інвентар, як правіла, адсутнічае. У 4 пахаваннях знойдзены цэлыя гаршкі, у 12 — фрагменты ляпных пасудзін, у 6 — бронзавыя і жал. рэчы, у 5 — абломкі крэменю.

*Літ.:* 173, 569, 578, 721, 898, 980.
*В. Ф. Капыцін, Л. Д. Побаль.*

**НОВЫ КРЫЎСК,** курганны могільнік *радзімічаў* каля в. Новы Крыўск Рагачоўскага р-на. За 1,5 км на У ад вёскі. 44 насыпы выш. 0,5—3 м, дыям. 5—20 м. Абследавалі ў 1910 Е. Р. Раманаў, у 1976 А. Р. Мітрафанаў. У 1968 Г. Ф. Салаўёва раскапала 22 курганы. У 18 пахавальны абрад — трупапалажэнне, у 2 — трупаспаленне, у 1 кургане ў магільнай яме знаходзіліся 2 гаршкі, 1 курган быў пусты.

У 15 насыпах знойдзены сярэбраныя і бронзавыя сяміпрамянёвыя, бронзавыя драцяныя, бранзалетападобныя скроневыя кольцы, шкляны бісер (бочачкападобны з пазалотай, зонны, шарападобны), шкляныя пацеркі, віты бронзавы бранзалет, цэлы гаршчок і абломкі гліняннага посуду, жал. нож, шыферныя праслíцы, лунніцы і інш.

Могільнік датуецца 11—12 ст.

*Літ.:* 324, 1117. *А. Р. Мітрафанаў.*

**НОВЫЯ ГРАМЫКІ,** стаянка эпохі позняга мезаліту *(сожскай культуры)* каля в. Новыя Грамыкі Веткаўскага р-на. За 300 м на ПдЗ ад вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе левага берага р. Беседзь і астанцы 2-й надпоймавай тэрасы, ва ўрочышчы Аўрамаў Бугор. Адкрыла і даследавала 775 м² у 1975 А. Г. Калечыц.

Выяўлены рэшткі 2 паўзямлянкавых жытлаў мезалітычнага часу, а таксама паўзямлянкавага жытла 5—6 ст. н. э. і драўлянай гасп. пабудовы эпохі феадалізму. Паўзямлянкі заглыблены ў зямлю да 0,5 м, з чашападобнымі цэнтр. часткамі дыям. 2—2,5 м. У жытлах нелакалізаваны ачагі адкрытага тыпу, зробленыя ў паглыбленні падлогі. Выяўлены сляды 24 вогнішчаў адкрытага тыпу, каля якіх шмат адходаў крамянёвай вытворчасці і прылад працы. Знойдзена больш за 32 тыс. вырабаў з крэменю, 3 тыс. вельмі дробных рэшткаў ляпнога посуду жал. веку. На паверхні сабрана яшчэ больш за 8 тыс. крамянёвых вырабаў. Толькі 2,6% знаходак з'яўляюцца гатовымі прыладамі працы, сярод іх найбольш разцоў розных тыпаў (нуклепадобныя, бакавыя, вуглавыя, сярэдзінныя, камбінаваныя), скрабкі на круглаватых адшчэпах, рубячыя прылады (сякеры, у т. л. з перахватам, цёслы, праколкі, свярдзёлкі, скоблі, скрэблы, мікрапласціны, лістападобныя наканечнікі стрэл і інш.).

*Літ.:* 479, 981. *А. Г. Калечыц.*

**НОЖ,** універсальная рэзальная прылада з падоўжаным лязом. Выкарыстоўваўся таксама для стругання, скрабення, праколвання і як халодная зброя.

У каменным веку Н. рабілі з крэменю. У раннім палеаліце іх выраблялі з адшчэпаў і пласцін, вастрыё і лязо заточвалі рэтушшу з аднаго ці двух бакоў. У сярэднім палеаліце Н. выраблялі без рэтушы (у выніку папярэдняй падрыхтоўкі нуклеуса лязо мела вугал завастрэння ў 10—20°). У познім палеаліце назіраецца тэндэнцыя да спецыялізацыі Н. На стаянцы Бердыж знойдзены Н. «касцёнкаўскага тыпу» для рэзання мяса. Яны выраблены на буйных крамянёвых пласцінах і мелі папярочнаўсечанае вастрыё і неапрацаваныя рэжучыя краі. У мезаліце, неаліце і бронзавым веку на тэр. Беларусі былі пашыраны Н. на крамянёвых адшчэпах і пласцінах, разнастайныя па форме, памерах і спосабах рэтушавання (рэтушавалі лязо, аснаванне і вастрыё) Н. Для нёманскай, верхнедняпроўскай і днепра-данецкай культур характэрны серпападобныя Н., лёзы і вастрыі якіх апрацоўваліся струменістай рэтушшу. Жалезныя Н. з'явіліся на Беларусі ў пач. 1-га тысячагоддзя да н. э. ў плямён *мілаградскай культуры.* Іх тып аднолькавы са скіфскімі Н.— аднализовыя з выгнутай гарбатай спінкай. Касцяная або драўляная ручка Н. набівалася на




Крамянёвыя нажы.




Нуклеус (1) і пласціна (2).

дзяржанне ці мацавалася да яго заклёпкамі. У апошнія стагоддзі да н. э. разам з выгнутымі паявіліся і адналязовыя Н. з прамой спінкай. Н. абодвух тыпаў карысталася насельніцтва зарубінецкай, днепра-дзвінскай, штрыхаванай керамікі культур. З пачатку н. э. існавалі толькі прамыя Н. (калочынская, кіеўская, банцараўская і інш. культуры). Паступова сфарміраваўся выразна трохвугольны клінок Н., аддзелены ад дзяржання двума ўступамі. На Пн Беларусі знойдзены нешматлікія Н., жал. дзяржанні якіх маюць валютападобныя навершы (Лукомль, Равячка). У адным з пахаванняў могільніка зарубінецкай культуры (Чаплін) знойдзены баявы Н., які меў бронзавую ручку з кольцам, верагодна, для мацавання цемляка. Астатнія Н. ранняга жал. веку лічацца універсальнымі. У эпоху ранняга феадалізму поруч з універсальнымі Н. паяўляюцца і спецыялізаваныя Н. Універсальныя Н. 10 — пач. 12 ст. мелі невял. вузкія клінкі з прамой шырокай спінкай і доўгім дзяржаннем (яго вось супадала з воссю клінка), на якое набівалася касцяная ці драўляная ручка. Такі Н. рабілі зварваннем 2 жалезных і змешчанай паміж імі стальной палос, што надавала ім большую трываласць. Акрамя таго, гэтыя клінкі маюць уласцівасць самазаточвання. З 12 ст. вядома тэхналогія наварвання на жал. аснову стальнога ляза. З сярэдзіны 12 ст. найб. пашыраныя Н. з закругленай (гарбатай) спінкай. Яны мелі шырокае і тонкае лязо і адносна кароткае дзяржанне. Вось дзяржання і вось клінка ўтваралі тупы вугал. Некаторыя Н. мелі на ручках жал. кольцы-абмежавальнікі. У 14—18 ст. пашырыліся Н. з прамой або злёгку закругленай на канцы спінкай, з шырокім амаль плоскім лязом. Яны мелі дзяржанні або плоскую аснову-ручку, выкаваную разам з клінком, да якой заклёпкамі мацаваліся касцяныя ці драўляныя накладкі. Рабілі такі Н. з жал. пласцін, цэментавалі і гартавалі яго клінок. Рэдкія знаходкі — Н. 12—13 ст. з суцэльнаметалічным дзяржаннем з адной або двух перакручаных палос (Ваўкавыск, Берасце). Насілі Н. звычайна на поясе ў скураных, а ў 10—12 ст. і ў бронзавых ножнах. Жанчыны насілі невялікія Н. на грудзях. Акрамя універсальных, рабілі спец. Н.: баявыя, шавецкія, сталовыя, хірургічныя, разцы для апрацоўкі дрэва. Баявыя Н. мелі больш доўгі клінок, іх маглі насіць за халявай бота (захаляўны Н.). Лязо сталовых Н. канчалася плаўным закругленнем. Хірургічныя Н. былі суцэльнаметалічныя з вузкімі адносна тонкімі клінкамі, што набліжала іх да скальпеляў (Ваўкавыск, 13 — пач. 14 ст.). З канца 11—12 ст. вядомы складаныя Н. з 2 лёзамі (Лукомль). У 17 ст. паявіліся спец. Н. для разразання старонак кніг. Рабілі іх з каляровых металаў і косці.

*Літ.:* 276, 277, 290.

*Ю. А. Заяц, В. Я. Кудрашоў, С. Я. Расадзін.*

**НУ́КЛЕУС** (ад лат. nucleus ядро), каменны, найчасцей крамянёвы абабіты жаўлак, ад якога ў каменным веку адбівалі ці адціскалі пласціны ці адшчэпы для вырабу прылад працы. Жаўлак ачышчалі і фарміравалі асн. рабочыя часткі Н.— ударную пляцоўку і плоскасць сколвання. У сярэднім палеаліце былі пашыраны дыскападобныя адна- і двухбаковыя Н., якія абівалі па акружнасці, у познім палеаліце — прызматычныя Н. з адной або некалькімі ўдарнымі пляцоўкамі, у канцы палеаліту, у мезаліце і неаліце — пірамідальныя, клінападобныя і аморфныя Н. Часам самі Н. выкарыстоўвалі як ударныя прылады працы. *В. Я. Кудрашоў.*

**«НУМІЗМА́ТЫКА І СФРАГІСТЫКА»,** неперыядычны зборнік, які ў 1963—74 выдаваў на рус. мове Ін-т археалогіі АН УССР (Кіеў). Выйшла 5 выпускаў. Пераважаюць матэрыялы па нумізматыцы, грашовым абарачэнні Украіны і сумежных тэрыторый, па антычнай нумізматыцы, ёсць артыкулы па фалерыстыцы і сфрагістыцы. Нумізматыка позняга сярэднявечча ў значнай ступені прадстаўлена бел. матэрыяламі — цыклам артыкулаў В. Н. Рабцэвіча пра скарбы ўсх. Беларусі 16 — 1-й пал. 19 ст. *І. І. Сінчук.*

**НЯРА́Ж,** стаянка *сожскай культуры* каля в. Нярaж Быхаўскага р-на. За 1,5 км на У ад вёскі і 4 км на Пд ад Быхава, на мысе першай надпоймавай тэрасы правага берага р. Радзіца пры выхадзе яе на поплаў Дняпра. Адкрыў у 1977 і даследаваў 67 м² у 1980, 1982, 1983 В. Ф. Капыцін.

Знойдзены вербалістыя наканечнікі свідэройднага тыпу, вастрыі, праколкі, разцы (рэтушныя, двухгранныя і на вуглу зламанай пласціны), разнастайныя скрабкі (канцавыя, закругленыя, з шыпам, стральчатыя, двайныя), сякерка з двухбаковым выцінаннем і авальнае цясла. У якасці сыравіны выкарыстоўваўся мясц. крэйдавы цёмна-шэры крэмень, які апрацоўвалі на стаянцы (пра гэта сведчыць больш за тысячу знойдзеных дробных асколкаў і лускавін, адшчэпаў, пласцін, нуклеусаў, кавалкаў і канкрэцый крэменю). Паселішча з'яўлялася сезонным лагерам стараж. паляўнічых і рыбаловаў. Бліжэйшым аналагам матэрыялам Нянража з'яўляюцца археал. комплекс мезаліту Новага Быхава і стаянка Горкі Чэрыкаўскага р-на.

*Літ.:* 569, 576. *В. Ф. Капыцін.*

**НЯСВІ́Ж,** горад, цэнтр Нясвіжскага р-на, на р. Уша (прыток Нёмана). За 112 км на ПдЗ ад Мінска, 14 км ад чыг. ст. Гарадзея.



Захаляўны **нож** 14 ст. Віцебск.



Посуд 17 ст. з **Нясвіжа.**

Сфарміраваўся ў канцы 16 — пач. 17 ст. як горад з першакласнай для таго часу абарончай сістэмай бастыённага тыпу. На высокім узгорку правага берага р. Уша ў 16 ст. існаваў драўляны замак. У 1583 тут пачалося будаўніцтва мураванага замка. Паблізу, на правым беразе ракі, сфарміраваўся пасад, які развіўся ва ўласна горад. У 1596 у цэнтры Н. ўзведзены будынак ратушы з мураванымі крамамі. У 1584—93 у паўн. частцы горада пабудаваны езуіцкі касцёл з калегіумам, у 1590—96 у паўд.-ўсходняй — кляштар бенедыкцінак, у 1598 на паўн.-зах. ускраіне Н. закладзены кляштар бернардзінцаў. Мяркуецца, што да 1600 горад быў абнесены земляным валам з 7 бастыёнамі; курціны часткова былі абмураваны, вал абведзены ровам, запоўненым вадой. У курцінах былі вымураваны 3 гар. брамы (Слуцкая, Клецкая, Віленская), 4-я (Замкавая) брама знаходзілася паміж вежай-званіцай езуіцкага касцёла і паўн. участкам вала. Умацаванні ўключалі зах.-еўрап. і мясц. абарончыя элементы і былі блізкія да новаітальянскай фартыфікацыйнай сістэмы. Мураваныя кляштары, размешчаныя ў трох кутах гар. умацаванняў, значна павышалі вартасць гэтай сістэмы. Рэнесансавая планіроўка горада з прывязкай да ландшафту склалася ў канцы 16— пач. 17 ст. і з невял. зменамі захавалася да нашага часу. Н. дзяліўся на Стары (умацаваны) і Новы (неўмацаваны) горад са сваімі рынкамі, меў прадмесці Казімір, Міхалішкі і інш. У першыя дзесяцігоддзі 17 ст. недалёка ад горада, злева ад дарогі на Слуцк, пабудаваны мураваны езуіцкі касцёл, побач з ім у 1686—88 узведзены кляштар. Недалёка ад Н., справа ад дарогі на Слуцк, у 1673 пабудаваны кляштар і касцёл бенедыкцінцаў.

У 1984—85 пад кіраўніцтвам І. М. Чарняўскага праведзены археал. даследаванні пабудоў Нясвіжскага замка, закладзены шурфы ў цэнтры Н. на тэр. кляштара бенедыкцінак, ратушы і гандл. радоў. У 1988—89 пад кіраўніцтвам І. І. Сінчука і А. К. Краўцэвіча дадаткова даследаваны ратуша і дом рамесніка на б. Гандлёвай пл. Вынікі раскопак паказалі, што бастыённы замак пабудаваны на незаселенай тэрыторыі, пацвердзілі дату заснавання кляштара бенедыкцінак і час стварэння абарончай сістэмы Н. Найбольш раннія знаходкі (фрагменты кафлі, керамічнага і шкляного посуду) датуюцца канцом 16 ст. Раскопкі на Гандлёвай пл. сведчаць, што найбольш інтэнсіўна горад развіваўся ў канцы 16—18 ст. У паўн. частцы плошчы культурны пласт 1—1,2 м, выяўлены рэшткі мураванага будынка 18 ст. У зах. частцы культурны пласт месцамі перавышае 3 м. Найбольш раннія знаходкі датуюцца 15 ст. (менш за 1 % археал. калекцыі). Ратуша мае падмурак з камянёў, вымураваны бутавым спосабам. Сцены падвала, перакрытага паўцыркульным скляпеннем, знутры абкладзены цэглай. Падмурак тыльнай часткі будынка, пад якой падвалаў няма, вымураваны толькі з камянёў. Гандлёвыя рады і часткі замкавых сцен, запушчаныя ў валы, зроблены з цэглы.

Ранняя гісторыя Н. вывучана недастаткова. У гіст. літаратуры горад атаясамліваюць з удзельным цэнтрам уладанняў Юрыя Нясвіжскага, які ў летапісе ўпамінаецца пад 1223 у ліку загінуўшых у бітве з татара-манголамі на р. Калка. Аднак аналіз гіст. крыніц і гербоўнікаў 19 — пач. 20 ст. дазваляе гаварыць аб прыналежнасці Юрыя да князёў Нясвіцкіх, радавым маёнткам якіх быў Нясвіч у Луцкім павеце.

Першыя дакладныя звесткі пра Н. адносяцца да 1446, калі вял. кн. літоўскі Казімір IV Ягелончык перадаў горад Мікалаю Яну Немiровічу; да таго Н. «Сяляўка трымаў». У 1492 прывілей на валоданне Н. дадзены Пятру Яну Мантыгірду. У 15—1-й пал. 16 ст. існаваў «двор нясвіжскі» — умацаваны цэнтр невял. ўладання. Ад Мантыгірдавічаў па жаночай лініі Н. перайшоў да Кішкаў. Ганна Кішка, якая ў 1513 выйшла замуж за Яна Мікалая Радзівіла Барадатага, атрымала пасля смерці маці Н., г. Алыку і шэраг валасцей і перадала іх пазней сваім сынам. З Радзівіламі звязаны новы этап у гісторыі Н., які стаў сталіцай іх вотчыны. У 1547 Мікалай Ян Радзівіл Чорны атрымаў княжацкі тытул і стаў называцца князем на Нясвіжы і Алыцы. Пры ім у Н. існаваў драўляны замак, дзе паводле каралеўскага прывілея ад 1551 захоўваліся дзярж. дакументы. Нясвіж з'яўляўся значным цэнтрам кальвінізму ў ВКЛ. Узвядзенне гар. умацаванняў, мураванага замка і асн. мураваных пабудоў звязана з дзейнасцю Мікалая Крыштофа Радзівіла Сіроткі. У 1586 утворана т. зв. нясвіжская ардынацыя, Н. атрымаў магдэбургскае права і прывілей на 2 кірмашы ў год. У горадзе развіваліся рамёствы, было 45—50 рамеснікаў 15 прафесій. У канцы 17 ст. ў Н. згадваюцца ўжо 45 прафесій, існавала некалькі рамесных цэхаў, 13—14 % насельніцтва займалася гандлем. У 1706 горад захапілі і спалілі шведы. Адраджэнне Н. пачалося пры Міхаілу Казіміру Радзівілу Рыбаньцы. Адноўлены гар. ўмацаванні, будынкі ратушы, касцёлаў і кляштараў. У 17—18 ст. Н.— значны эканам. і культ. цэнтр ВКЛ. У замку Радзівілаў была багатая бібліятэка, арсенал, карцінная галерэя, створаны музычная, вакальная, балетная школы, прыдворная капэла, аркестр нар. інструментаў і тэатр. Каралеўскі прывілей 1750 дазволіў адкрыць у Н. друкарню. У горадзе дзейнічалі мануфактуры суконныя, па вырабу дываноў і шаўковых паясоў (персіярня). З 1755 працаваў бровар. Пад канец 18 ст. жалезаробчая мануфактура плавіла руду, працавала ліцейня для гармат. У 1765 і 1768 горад заняты рус. войскамі. З 1793 у складзе Расійскай імперыі.

*Літ.:* 1281.

*Л. Л. Чарняўская, І. М. Чарняўскі.*

**НЯСІЛАВІЧЫ**, стаянкі каменнага і бронзавага вякоў у ваколіцах в. Нясілавічы Дзятлаўскага р-на.

С т а я н к а -1. На паўн. ускраіне вёскі, на высокай дзюне каля левага берага р. Моўчадзь, у месцы яе выхаду на левабярэжны поплаў Нёмана. Выявіла ў 1959 Н. М. Гурына, даследаваў (100 м²) у 1982 М. М. Чарняўскі. Культурны пласт таўшч. да 0,3 м, месцамі перакрыты навеяным пяском. Паўн. частка помніка знішчана кар'ерам.

Знойдзены ланцэтападобныя вастрыі, у т. л. і яніславіцкага тыпу, пласцініразцы, рэжучыя прылады на пласцінах, аднапляцовачныя нуклеусы.

С т а я н к а-2 канца мезаліту і бронзавага веку. За 1,5 км на З ад вёскі, па паўд.-зах. краі дзюны левабярэжнага поплаву Нёмана. Пл. каля 2 га. Выявіла ў 1959 Гурына, даследаваў у 1982 Чарняўскі. Культурны пласт таўшч. да 0,5 м. На пл. 900 м² выяўлены рэшткі агнішчаў-кастрышчаў і агнішчаў, выкладзеных камянямі, гумусаваныя паглыбленні, шматлікі і разнастайны крамянёвы інвентар і кераміка розных этапаў культур нёманскай і шнуравой керамікі. Датуецца 6—1-м тысячагоддзямі да н. э.

С т а я н к а-3 эпохі неаліту. За 1,5 км на З ад вёскі і за 200 м на Пд ад стаянкі-2, на мысе тэрасы, над зарослай даўняй старыцай Нёмана. Памер 300×50 м. Выявіла і абследавала ў 1959 Гурына. У 1977 і 1982 Чарняўскі ўскрыў 100 м². Культурны пласт таўшч. да 0,6 м. Выяўлены агнішчы з невял. колькасцю камянёў, крамянёвыя прылады працы, фрагменты керамікі дубічайскага этапу нёманскай культуры. Датуецца 4-м тысячагоддзем да н. э.

У наваколлі Нясілавіч вядома яшчэ да 10 стаянак. З іх найважнейшыя: на ПнЗ ад стаянкі-2, над старыцай; каля правага берага р. Моўчадзь; на ПдУ ад стаянкі-3, на пясчаным павышэнні, з матэрыяламі свідэрскай раннемезалітычнай культуры.

*Літ.:* 288, 1289. *М. М. Чарняўскі.*



**ОДРСК**, горад, які ўпамінаецца ў «Павучанні» Уладзіміра Манамаха ў сувязі з яго паходам на Полацк у 1078. З. Я. *Даленга-Хадакоўскі* выказаў меркаванне, што О. знаходзіўся на р. Адроў (правы прыток Дняпра), на Аршаншчыне, але гэта не пацверджана раскопкамі. Рус.

гісторык М. М. Карамзін лічыў, што ў крыніцы памылкова напісана Одрьск замест Дръютеск (Друцк).
*Літ.*: 46, 848.

**ОПАЛЬ,** група археал. помнікаў каля в. Опаль Іванаўскага р-на.

Стаянка-1. За 2,5 км на ПнУ ад вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Ясельда. Даўж. каля 400 м, выш. над поймай ракі 2—3 м. Выявіў і даследаваў у 1971, абследаваў у 1986 У. Ф. Ісаенка. Знойдзена 800 вырабаў з крэменю, у т. л. 160 пласцінiстых наканечнікаў стрэл, разцоў, скрэблаў, нажоў. Стаянка адносіцца да *свідэрскай культуры* і датуецца 9—5-м тысячагоддзямі да н. э. У зах. частцы стаянкі знойдзены абломкі неалітычных гаршкоў, зерняцёрка, абломкі ляпной керамікі, а таксама рэшткі могільніка з абрадам трупаспалення ранняга жал. веку.

Стаянка-2 і крамянёвая майстэрня. За 1,5 км на У ад вёскі, на паўн. схіле і ў верхняй частцы лагчыны, якая ўтварылася на паверхні марэннага ўзвышша. Даўж. стаянкі каля 400 м, выш. над



**Орт.** Рэч Паспалітая: 1—2. Зыгмунт III Ваза, 1623, 1616; 3. Ян II Казімір Ваза, 1664; 4. Ян III Сабескі, 1677; 5. Аўгуст II, 1704; 6. Аўгуст III, 1755. Брандэнбург: 7. Георг Вільгельм [1619—40]. Прусія: 8. Фрыдрых Вільгельм I, 1685; 9. Фрыдрых III, 1698. Швецыя: 10. Карл X Густаў, 1656.

поймай ракі 4—6 м. Выявіў і даследаваў у 1963, абследаваў у 1986 і 1990 Ісаенка.

Знойдзены рэшткі агнішчаў, абкладзеных камянямі, 1400 апрацаваных крамянёў, сярод іх макраліты — буйныя трапецападобныя і авальныя сякеры, трохгранныя пікі, свідэрскія і тыпу Лінгбі наканечнікі, грубыя разцы, скрэблы, скоблі і інш. Нагрувашчанні крамянёвых адшчэпаў і нуклеусаў сведчаць пра існаванне тут майстэрні па апрацоўцы крэменю.

Стаянка і майстэрня адносяцца да эпохі мезаліту, шэраг знаходак — да *Лінгбі культуры.*

С т а я н к а -3. За 1 км на У ад вёскі, на зах. краі лагчыны. Даўж. каля 150 м. Выявіў у 1963, абследаваў у 1986 Ісаенка. Адносіцца да *нёманскай культуры.*

*Літ.:* 457, 460. *У. Ф. Ісаенка.*

**ОРЛАВІЧЫ,** курганны могільнік каля в. Орлавічы Слонімскага р-на. За 900 м на ПдУ ад вёскі, на могілках. 52 насыпы (некалькі спараных) выш. 0,8—1,6 м, дыям. 4—8 м. Даследавалі ў 1930-я г. польскі археолаг Р. Якімовіч і заснавальнік Слонімскага краязнаўчага музея І. І. Стаброўскі (некалькі курганоў), у 1965 П. Ф. Лысенка і В. Р. Супрун (3 курганы ва ўсх. частцы могільніка). Пахавальны абрад — трупапалажэнне галавой на З у ямах глыб. 0,3 м або ў насыпах на выш. 0,2—0,4 м. У 1 кургане былі 4 рознасачасовыя пахаванні (2 мужчынскія, жаночае і дзіцячае), магчыма, з адной сям'і.

Пры самым раннім (мужчынскім) пахаванні выяўлены рэшткі дашчанай труны. Знойдзены маленькія ганчарныя гаршчочкі з лінейным арнаментам, бронзавыя абцужкі, плеценыя каралі дрыгавіцкага тыпу і шкляныя бочкападобныя пазалочаныя знутры пацеркі; у 1 кургане — рэшткі жал. абруча з драўлянага вядра і фрагменты ганчарнага посуду, наверсе насыпу былі камяні. У жаночым пахаванні знойдзена лівонская манета 16 ст. з сярэбранага сплаву.

Могільнік датуецца 11—17 ст.

*Літ.:* 272, 1340, 1437, 1486.

*В. Р. Супрун.*

**ОРТ** (ням. Ort чвэрць), сярэбраная манета наміналам у $^1/_4$ (16—17 ст.). $^1/_5$ і $^1/_6$ (18 ст.) *талера.*

**Г е р м а н с к і я д з я р ж а в ы.** У 16—1-й пал. 17 ст. $^1/_4$ рэйхсталера. На *аверсе* выява імперскага арла і лічба 4, на *рэверсе* — **REICHSORT** (імперскі орт). Эмітаваліся таксама наміналы ў $^1/_2$ О.—$^1/_8$ рэйхсталера. На аверсе выява імперскага арла і лічба 8, на рэверсе — легенда **I HALB REICHSORT** (1 пал. імперскага орта) або **VIII EINEN REICHSTALER** (восьмая рэйхсталера). Б р а н д э н б у р г, Кёльнскі манетны двор 1620-я г. На аверсе — профільны партрэт маркграфа, на рэверсе — дзярж. герб на чатырохдольным геральдычным шчыце. П р у с і я, Кёнігсбергскі манетны двор, апошняя чвэрць 17 ст. На аверсе — профільны партрэт герцага, на рэверсе — дзярж. герб на чатырохдольным шчыце, па баках якога лічбы 1 і 8 (18 грошаў). **Д а н і я, Н а р в е г і я** 18 ст. Намінал у 24 скілінгі (гл. *Шылінг*). **Рэч Паспалітая.** Г а р а д с к а я ч а к а н к а. На аверсе — профільны партрэт караля, на рэверсе — герб горада, з 1650 па баках яго лічбы 1 і 8 (18 грошаў). Выпускалі ў 1608—15 (*лотавая проба* XIV, *лігатурная маса* 6,80 г), 1616—55 (проба XIII, маса 5,60 г), з 1658 (проба XI, маса 4,95 г.). Гданьск выпускаў у 1608—21, 1623—26, 1650—52, 1654—64, 1666—67, 1758—60, 1763; Торунь — у 1630, 1650—51, 1653—55, 1655—58 (чаканка шведскіх акупацыйных улад), 1659—68; Эльблёнг — у 1650—51, 1656—58 (чаканка швед. акупац. улад), 1660—62, 1665—67. Ц э н т р а л і з а в а н а я ч а к а н к а манетнымі дварамі Рэчы Паспалітай, *манетнымі дварамі Саксоніі.* На аверсе — профільны партрэт караля, на рэверсе, — дзярж. герб на чатырохдольным шчыце (з 1650 па баках яго лічбы як на манетах гар. чаканкі). Выпускалі ў 1618—22 (проба XIII, маса 6,30 г), 1623—49 (проба XI, маса 7,06 г), 1650—55 (проба XIV, маса 5,60 г), 1656 (проба XI, маса 6,30 г), 1657—59 (проба X, маса 6,71 г), 1660—68 (проба XI, маса 6,65 г), 1677—80, 1684, 1698, 1704 (проба X, маса 6,32 г), 1752—56 (проба V, маса 5,84 г). Быдгашч выпускаў у 1618—25, 1628, 1650—52, 1677—80, 1684—86; Усхоў — у 1650—55; Кракаў — у 1655—59, 1663—64, 1667—68; Львоў — у 1656—57, 1660; Познань — у 1651—59; Ляйпцыг — у 1698, 1704, 1752—56; Вільня — у 1664. Гл. таксама *Ахтцэнгрошэр, Злоты, Тымф.*

*Літ.:* 1671, 1695, 1729, 1735.

*В. Н. Рабцэвіч.*

**ОРТ ЗЛО́ТАВЫ** (польск. ort złotowy), першапачатковая афіцыйная назва ў Рэчы Паспалітай польскіх (1663—66) і літоўскага (1666) *тымфаў.*

**ОРТ ТЫ́МФАВЫ,** распаўсюджаная назва польскіх (1663—66) і літоўскага (1666) *тымфаў* на тэр. Беларусі з пач. 1670-х г.

**О́РША,** горад, цэнтр Аршанскага р-на, на р. Дняпро пры ўпадзенні ў яго р. Аршыца, за 80 км на Пд ад Віцебска. Вузел чыгунак і аўтадарог.

Найбольш старажытная ўмацаваная частка О.— першаснова гар. планіровачнай структуры — размяшчалася на гарадзішчы ў сутоках рэк Аршыца і Дняпро. Гарадзішча мысавага тыпу, узвышаецца на 6—7 м над наваколлем, мае роўную пляцоўку памерам 100×75 м. Былыя ўмацаванні (вал) адсутнічаюць, з боку поля каля падножжа гарадзішча прасочваюцца рэшткі рова шыр. да 3 м, глыб. 0,7—1 м. Гарадзішча ўпершыню даследаваў у 1928 А. М. Ляўданскі. У траншэі (даўж. 13 м, шыр. 1 м) і 3 шурфах выяўлены моцна перамяшаныя культурныя напластаванні 3 слаёў. У ніжнім былі матэрыялы 11—13 ст., у сярэднім — 14—16 ст., у верхнім — больш позднія знаходкі. Паводле Ляўданскага, узнікненню паселішча эпохі Кіеўскай Русі папярэднічала стаянка эпохі бронзы. У 1964 шурфы (8 м²) на гарадзішчы былі закладзены Г. В. Штыхавым. У 1965—68 раскопкі на пл. 503 м² правёў Ю. І. Драгун. Культурны пласт (магутнасць 1,6—3,6 м) стратыграфічна падзяляўся на 3 асноўныя слаі; верхні і сярэдні слаі практычна не мелі знаходак. У ніжнім слоі ўскрыты рэшткі драўляных пабудоў, вымасткак, печаў. На адным з участкаў вылучана 11 буд. ярусаў. Пабудовы — наземныя зрубы без фундаментаў, вуглы «ў абло» з астаткам. Пад некаторыя вуглы падкладзены камяні. Печы глінабітныя. Двары, замошчаныя драўлянымі насціламі, раздзяляліся частаколам. У 1988 раскопкі на пл. 72 м² правяла В. М. Ляўко. Выяўлены фрагменты вала 12 ст. (разбураны ў 1-й палове 17 ст.), каменнай вымасткі 14 ст. на вапнавым растворы (каменнай сцяны), якая ішла паралельна насыпу вала. Праслойкі вугалю на розных узроўнях сведчаць пра неадназаровыя пажары. Насып вала перакрываюць матэрыялы 2-й паловы 17 ст. і больш позднія. На гарадзішчы знойдзена шмат матэрыялаў 11—18 ст., у т. л. пацеркі (рабрыстыя лімонкі), наканечнікі стрэл, крэсіва з язычком, шматлікія шкляныя бранзалеты мясц. вытворчасці 12—14 ст., вырабы з жалеза, косці, каляровага металу і інш.



Рэчы з раскопак гарадзішча Оршы.

Вакол гарадзішча размяшчаўся неўмацаваны пасад. На правым беразе р. Аршыца, паблізу гарадзішча, зафіксаваны найб. стараж. пласт з матэрыяламі 12 ст. У 1987 у час буд. работ недалёка ад касцёла (зараз Дом культуры) у траншэі зафіксаваны культурны пласт 1—1,2 м з матэрыяламі 12—18 ст. Участак паміж Дняпром і Аршыцай да будаўніцтва *Аршанскага замка* таксама, верагодна, быў раннім неўмацаваным пасадам. Археал. даследаваннямі Ляўко 1987—89 устаноўлена, што пасад у паўн. напрамку развіваўся ўздоўж сучаснай вуліцы Эн-

гельса; пры яе перасячэнні з вуліцай Народнай на мацерыку зафіксаваны матэрыял 17 ст. Вышэй па вуліцы Энгельса пры перасячэнні з вуліцай Міра на правым беразе Аршыцы, дзе размяшчаўся пабудаваны ў 2-й пал. 18 ст. базыльянскі кляштар, культурныя напластаванні больш ранняга часу адсутнічаюць, што сведчыць пра будаўніцтва кляштара па-за межамі горада на свабоднай тэрыторыі. На левым беразе Аршыцы пасад развіваўся паміж ёю і Дняпром, магчыма, да сучаснай вуліцы Цэнтральнай. Раскопкамі на тэр. езуіцкага калегіума, пабудаванага ў 17 ст. за замкавым ровам, устаноўлена, што ніжнія напластаванні адносяцца да 15 ст. Аднак невялікая магутнасць культурнага пласта (0,6—1 м) сведчыць пра слабую ў той час інтэнсіўнасць жыцця на гэтым участку. У 14 ст. О. ўключала замак (яго састаўной часткай было і гарадзішча) і пасады на правым і левым берагах Аршыцы. Вулічная сетка развівалася ад замка ўздоўж Дняпра і абодвух берагоў Аршыцы.

Як адзін з пагранічных фарпостаў на ўсх. рубяжах Полацкай зямлі, О. ўзнікла, верагодна, каля 1021, калі кіеўскі кн. Яраслаў Мудры ўступіў полацкаму кн. Брачыславу Ізяславічу Віцебск і Усвяты з прылеглымі землямі. Упершыню горад упамінаецца ў «Аповесці мінулых часоў» пад 1067 у сувязі з міжусобнай барацьбой паміж полацкім князем Усяславам Брачыславічам і сынамі Яраслава Мудрага. У пач. 12 ст., калі Полацкая зямля падзялілася на княствы-ўдзелы, О. ўвайшла ў склад Віцебскага княства. З пачатку княжання ў Віцебску Альгерда Гедымінавіча (1320) О. ў складзе Віцебскага княства далучана да Вял. кн. Літоўскага. У сувязі з прыгранічным становішчам горада тут быў узведзены замак (у 16 ст. яго гарнізон налічваў каля 300 чал.). У Аршанскай бітве 1514 войскі Вял. кн. Літоўскага атрымалі перамогу над значна большымі рускімі войскамі. У 16 ст. ў ходзе шматлікіх войнаў горад неаднойчы быў разбураны. З 1560-х г. О.— дзяржаўнае уладанне, цэнтр павета. Значнае развіццё атрымалі рамяство і гандаль. Паводле няпоўных даных, у 16 ст. тут існавалі 23 віды рамёстваў, у 17 ст.— 26, у пач. 18 ст.— 49, у 2-й пал. 18 ст.— 52. У сярэдзіне 17 ст. ў горадзе каля 5 тыс жыхароў. О. займала выгаднае становішча на водным шляху на Дняпры. Мела гандл. сувязі з Расіяй, Польшчай, Прыбалтыкай, Украінай, з'яўлялася транзітным цэнтрам, пачатковым пунктам вял. гандл. шляху — «гасцінца купецкага», які праходзіў на тэр. Беларусі з Рускай дзяржавы ў Польшчу і Прыбалтыку. У 1620 горад атрымаў магдэбургскае права. У 1623 засн. *Аршанскі Куцеінскі Богаяўленскі манастыр*, у 1631 — жаночы Успенскі манастыр. У сярэдзіне 17—18 ст. ў сувязі з частымі войнамі (руска-польскай 1654—67, Паўночнай 1700—21), агульным эканам. крызісам Рэчы Паспалітай О. былі нанесены значныя страты, і горад занепаў. Паводле 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) далучана да Расійскай імперыі.

*Літ.:* 319, 713, 842. *В. М. Ляўко.*

# П

**ПАВЕ́ТРАНАЯ АРХЕАЛО́ГІЯ**, галіна археалогіі, якая вывучае археал. помнікі з дапамогай лятальных апаратаў і аэрафотаздымак. Узнікла ў канцы 19 ст. У СССР метады П. а. выкарыстоўваліся з 1930-х г. Аэрафотаздымка вядзецца аэрафотаапаратамі ці інш. фотакамерамі. Здымкі вывучаюцца з дапамогай стэрэапрыбораў (СТД-1, двайнога праектара, стэрэапланіграфа і інш.), што дазваляе атрымаць мадэль разведанай мясцовасці і выявіць на ёй археал. помнікі, іх планіроўку і памеры.

*Літ.:* 86, 315, 1326. *Л. У. Дучыц.*

**ПАГАРЭ́ЛЬШЧЫНСКІ МАНЕ́ТНА-РЭ́ЧАВЫ СКАРБ.** Знойдзены на левым беразе р. Бярэзіна каля в. Пагарэльшчына Валожынскага р-на ў 1955 (маса 4850, 663 г). **Рэчавая частка** складалася з металічнай пасудзіны (бронзавы корпус з накладным верхнім медным абадком і жал. вушкамі для падвешвання), палавіннага фрагмента сярэбранай *грыўні шыйнай* (звітая з 3 дроцікаў з конусападобнымі канцамі), сярэбраны фрагмент і загатоўка для бранзалета з 2 скаваных палос (чатырохгранная ў сячэнні, скручаная ў 2,2 віткі). **Манетная частка** складалася з 1904 цэлых і фрагментаваных куфіцкіх дырхемаў Арабскага халіфата.

Умаяды (15 экз.): Сулайман [715—717], Язід II [720—724], Хішам [724—743], Валід II [743—744], Мерван II [744—750] — манетны двор Васіт. Абасіды (902 экз.): ас-Сафах [750—754], ал-Мансур [754—775], ал-Махдзі [775—785], ал-Хадзі [785—786], ар-Рашыд [786—809], ал-Амін [809—813], ал-Мамун [813—833], ал-Мутасім [833—842], ал-Васік [842—847], ал-Мутавакіль [847—861], ал-Мустансір [861—862], ал-Мустаін [862—866], ал-Мутаз [866—869], ал-Мутамід [870—892], ал-Мутадзід [892—902] — ал-Абасія, Андэраба, Арменія, Араджан, Аран, ал-Ахваз, ал-Басра, Бердаа, Васіт, Дзімешк, Іфрыкія, Ісбахан, Керман, ал-Куфа, Мах ал-Куфа, Маадэн Баджунейс, Маадэн аш-Шаш, аш-Шаш, Мадынат Абрашэхр, Мадынат Балх, Мадынат Бухара, Мадынат Зерэндж, Мадынат Ісбахан, Мадынат Нісабур, Мадынат ас-Салам, Мадынат Самарканд, Самарканд, Мадынат Херат, Мерв, Міср, ал-Мубарака, ал-Мухамадыя, ар-Рафіка, Седжэстан, Сураман-Раа, Тыфліс, Фарыс. Саманіды (500 экз): Ісмаіл ібн Ахмад [892—907] — Андараба, Бухара, Мерв, Самарканд, аш-Шаш. Абасіды або Саманіды (41 экз): дырхемы дакладна нявызначаныя з-за дрэннай захаванасці. Абу-Давудзіды (5 экз): Ахмад ібн Мухамад [892—923] — Балх, Пянджхір. Аглабіды (1 экз.): Зіядат-Алах I [817—838] — Іфрыкія. Зайдзіды (1 экз.): Хасан ібн Зейд [864—884] — Мадынат Джурджан. Сафарыды (29 экз): Якуб ібн Лайс [867—878], Амр ібн Лайс [879—900], Тахір ібн Мухамад [901—908] — Араджан, Нісабур, Пянджхір, Фарыс, Шыраз. *Манеты-перайманні* куфіцкіх дырхемаў (351 экз.), нявызначаныя дырхемы з-за дрэннай захаванасці (47 экз.), *манеты фальшывыя* (2 экз.) пад абасідскі (ал-Мансур, Мадынат ас-Салам, 771—772) дырхем, *манетападобныя пласцінкі* неадчаканеныя (10 экз.). Скарб ухаваны ў 910-я г. (не раней 903). Зберагаецца ў Нумізматычным кабінеце БДУ (Мінск). *В. Н. Рабцэвіч.*

**ПАГО́СТ** (ад стараж.-рус. погостити — пабываць у гасцях), 1) першапачатковае значэнне П.— пастаялы двор, дзе спыняліся князь, духоўныя асобы, купцы (госці). 2) Цэнтр сельскай абшчыны з царквой і могілкамі, паселішча, потым — адм.-тэрытарыяльная адзінка. Падзел на П. існаваў у паўн.-зах. раёнах Рус. дзяржавы да 18 ст. На Пд. Беларусі (Пінскае княства) існавалі да пач. 16 ст., потым ператварыліся ў вёскі і мястэчкі. 3) Вясковыя могілкі.

**ПАГО́СТ**, група археал. помнікаў каля в. Пагост Жыткавіцкага р-на.

Селішча-1. За 1 км на ПдЗ ад вёскі, абкружана старыцамі р. Сцвіга, ва ўрочышчах Сырэц і Панскае Поле, каля сучасных могілак. Абследаваў у 1961 і 1974 Л. Д. Побаль. Знойдзена ляпная кераміка жал. веку.

Бескурганны могільнік. Па паўн. ускраіне вёскі. Знойдзены 3 бескурганныя пахаванні мілаградскай і раннезарубінецкай культур.

Селішча-2. За 1 км на З ад вёскі, на правым беразе старыцы р. Прыпяць, ва ўрочышчах Вузкае і Грабелька. Пл. каля 1 га. Абследаваў у 1961 і 1974 Побаль. На паверхні і ў агаленнях берага знойдзена ляпная кераміка ранняга жал. веку і ганчарная кераміка раннефеад. часу.

**ПАГОСТ-ЗАГАРО́ДСК**, група стаянак каменнага веку каля в. Пагост-Загародск Пінскага р-на.

Стаянка-1 эпохі мезаліту. За 2 км на З ад вёскі, на ўсх. беразе воз. Пагосцкае. Даўж. 80 м. Выявіў у 1967 У. Ф. Ісаенка. Знойдзена каля 50 мікралітычных вырабаў. У 1978 засыпана дамбай.

Стаянка-2 *нёманскай культуры*. За 1 км на ПнУ ад вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Бобрык. Даўж. 300 м. Выявіў у 1967 і даследаваў у 1967, 1987 Ісаенка. Знойдзены крамянёвыя прылады працы, абломкі ляпнога посуду.

Стаянка-3. За 2 км на ПнУ ад вёскі, за могілкамі, сярод хвойніку над поймай р. Бобрык. Даўж. 200 м, паверхня пашкоджана эрозіяй. Выя-

віў у 1966 і даследаваў у 1987 Ісаенка. Большасць знойдзеных на стаянцы крамянёвых прылад працы адносіцца да эпохі мезаліту.

Стаянка-4 нёманскай культуры. За 1 км ад вёскі, на паўд. беразе воз. Пагосцкае. Даўж. 300 м. Даследаваў у 1967—70 Ісаенка. Культурны пласт 0,2 м. Выяўлены рэшткі жытла, больш за 110 прылад працы, у т. л. шліфаваныя каменныя сякеры, 800 апрацаваных крамянёў, фрагменты гаршкоў.

Стаянка-5 нёманскай культуры. За 1,5 км на Пд ад вёскі, на паўд. беразе воз. Пагосцкае, на ўзгорку і на надпоймавай тэрасе. Даўж. 350 м, выш. над узроўнем вады 5—7 м. Даследаваў у 1970—80 Ісаенка. Культурны пласт 0,2—0,5 м. Знойдзена 300 крамянёвых прылад працы, рэшткі ранненеалітычнага посуду і інш.



Бронзавая **падвеска-канёк** 11 ст. з Віцебска.



**Падвескі**-канькі з гарадзішча Маскавічы (Браслаўскі р-н) і Віцебска. 13 ст.

*Літ.:* 460. *У. Ф. Ісаенка.*

**ПАДВЕ́СКІ**, від стараж. падвесных упрыгожанняў да адзення (часцей жаночага), збруі і іншага начыння. З'яўляліся таксама *амулетамі.* П. найчасцей насілі разам з каралямі і пацеркамі, на ланцужках, шнурках, прышывалі на адзенне і інш.

На Беларусі найб. стараж. П. адносяцца да палеаліту (з зубоў лісіцы, ваўка і інш. жывёл). У бронзавым веку ўжываліся бурштынавыя П. з вял. адтулінай пасярэдзіне, а таксама медныя акулярападобныя П. *сярэднедняпроўскай культуры.* У жал. веку пашыраны металічныя, каменныя, касцяныя і гліняныя П. круглай, трохвугольнай і трапецападобнай форм *мілаградскай культуры;* бронзавыя і жалезныя пласцінчастыя і трапецападобныя П. *зарубінецкай культуры,* упрыгожаныя спіралямі і паглыбленнямі, пласцінчастыя трапецападобныя і драцяныя акулярападобныя П. *штрыхаванай керамікі культуры.* У 10—13 ст. з каляровых і каштоўных металаў выраблялі П. ў выглядзе плоскіх сімвалаў нябесных свяціл (манетападобныя, *лунніцы*), жывёл, птушак, бытавых рэчаў (ключы, лыжкі), крыжыкаў, званочкаў. П. знаходзяць на паселішчах, у пахаваннях. Найбольш цікавыя з іх полыя П.-конікі з білону (Барысаў, Віцебск, гарадзішча *Маскавічы*), скандынаўскія П. ў выглядзе фігурак вікінгаў *(Лудчыцы, Калодзецкая).*

*Літ.:* 1025, 1067, 1238. *Л. У. Дучыц.*

**ПАДВО́ДНАЯ АРХЕАЛО́ГІЯ** гідраархеалогія, галіна археалогіі, якая займаецца вывучэннем стараж. аб'ектаў, затопленых вадой. Узнікла ў сярэднявеччы з мэтай пошукаў затанулых караблёў.

Першыя падводныя археал. даследаванні ў Расіі праведзены ў 1905 па прапанове рус. інжынера Л. П. Колі ў бухце г. Феадосіі ў Чорным моры. У 1930 пад кіраўніцтвам праф. К. Э. Грыневіча вадалазы даследавалі рэшткі пабудоў стараж.-грэчаскай калоніі Херсанес. З 1937 пад кіраўніцтвам акадэміка Р. А. Арбелі праводзіліся даследаванні антычнага горада Ольвіі. Далейшае развіццё П. а. звязана з вынаходствам у 1943 французскім даследчыкам Жакам-Івам Кусто і Э. Ганьякам акваланга, што дало магчымасць свабодна і без асаблівых выдаткаў працаваць на глыбінях да 50 м. З 1957 пад кіраўніцтвам праф. У. Дз. Блавацкага праводзяцца падводныя археал. даследаванні на Чорным моры.

На тэр. Беларусі налічваецца больш за 100 гідраархеал. помнікаў (капішчы, стараж. масты, месцы б. бітваў, культавыя камяні, затопленыя паселішчы, чаўны і г. д.). На Беларусі ў 1907 у р. Ясельда каля в. Жабер (Драгічынскі р-н) вёўся пошук гармат, затопленых у 17 ст. (знойдзены 8 гармат). У 1920-я гады падводныя раскопкі праводзіліся на месцы пераправы войск Напалеона цераз Бярэзіну каля в. Студзёнка (Барысаўскі р-н). Планавыя падводныя пошукі археал. помнікаў пачаліся ў 1979. У 1982 пры Дзярж. музеі БССР створаны клуб падводных гісторыкаархеал. даследаванняў, а ў 1987 група «Акванаўты» пры Мінскім педінстытуце імя М. Горкага, якія разам са спецыялістамі музеяў і Ін-та гісторыі Акадэміі навук праводзяць сістэматычныя падводныя археал. даследаванні. На ўчастку воз. Дзерба каля гарадзішча *Маскавічы* ў выніку падводных раскопак у 1979—88 выяўлены культурны пласт 0,2—0,3 м на пл. 1 га, знойдзены гліняны посуд, косці свойскіх і дзікіх жывёл, рэчы 12—13 ст. У рэчышчы Зах. Дзвіны на месцы знаходжання *Барысавых камянёў* зроблена шурфоўка дна. Знойдзены абломкі камянёў, фрагменты керамікі 12—15 ст., косці жывёл і асобныя рэчы.



Да арт. **Падводная археалогія.** Падняцце знаходак з дна возера Сенніца каля в. Дарахі Гарадоцкага р-на.

У 1987—91 праводзіліся археал. раскопкі ў р. Свіслач у Мінску і ў р. Лукомка каля г. п. Лукомль, у воз. Іказнь каля сцен замка і в. *Старыя Лаўкі.* Пры даследаваннях у воз. Нарач і Мядзел знойдзены бытавыя рэчы, фрагменты керамічных пасудзін і кафлі. З 1986 праводзяцца археал. даследаванні на воз. Сенніца (Гарадоцкі р-н), у 1989 тут выяўлены 4 паселішчы на палях 3—2-га тысячагоддзяў да н. э., знойдзены рэшткі керамічнага посуду, каменныя і гліняныя грузілы, вырабы з каменю, косці і інш. (гл. таксама *Дарахі).* У 1991 з воз. Іказнь падняты стараж. чаўны.

*Літ.:* 134, 647, 807, 838, 907.

*Л. У. Дучыц, С. М. Сіманюкоў.*

**ПАДГОР'Е**, гарадзішча *юхнаўскай культуры* каля в. Падгор'е Добрушскага р-на. Размешчана за 500 м на ПнУ ад вёскі, ва ўрочышчы Касабукі. Займае трохвугольны мыс правабярэжнай тэрасы р. Іпуць. Пляцоўка (пл. 1 га) умацавана дугападобным валам выш. 2,5—3 м. У 1982—84 даследавана больш за палавіну плошчы. Культурны пласт таўшч. ад 0,5 да 1,5 м.

Выяўлена ляпная кераміка мілаградскай і юхнаўскай культур, мініяцюрная гліняная пасудзіна, праслiцы і грузікі, жал. іголкі, нож з гарбатай спінкай, шпілька з S-падобным завіткам, каменны таўкач. Знойдзены рэшткі некалькіх заглыбленых у мацярык жылых і гасп. пабудоў, а таксама развал

домніцы. У адным з жытлаў выяўлены абмазаны глінай выступ, на якім размяшчаліся, верагодна, звязаныя з культам гліняная фігурка бабра, мініяцюрныя гаршчочкі, выявы печанага хлеба, у другім раструшчаныя гаршкі мілаградскай, у трэцім — юхнаўскай культур, а таксама ворваркі скіфскага тыпу. *С. Я. Расадзін.*

**ПАДГО́Р'ЕЎСКІ МАНЕ́ТНЫ СКАРБ.** Знойдзены ў в. Падгор'е Мінскага р-на ў 2-й пал. 1960-х г. Складаўся з 450 сярэбраных манет (маса 406,297 г).

Ч э х і я. *Грош пражскі* (манетны двор Кутна Гора): Карэл I [1346—78] — 3 экз., Вацлаў IV [1378—1419] — 222 экз. (з іх 1 *манета контрамаркіраваная* г. Аўсбурга). В К Л. Паўгрош *(Віленскі манетны двор):* Аляксандр Казіміравіч [1492—1501] — 224 экз. Ухаваны ў 1501—06. Зберагаецца ў Нумізматычным кабінеце БДУ.

**ПАДДУ́БНІКІ,** гарадзішча *днепрадзвінскай культуры* каля в. Паддубнікі Міёрскага р-на. За 700 м на ПнЗ ад вёскі, на стрэлцы высокага (10—12 м) і стромкага мыса. Пляцоўка авальная, памер 58×28 м. З захаду абмежавана поймай р. Аута, з У — глыбокім ровам, на дне якога ручай Сквірэя. З Пд умацавана 5 валамі выш. 1,5—2,5 м і 4 равамі глыб. 1,8—2 м (валы насыпаны ў позні перыяд існавання гарадзішча). Даследавалі ў 1938 У. Галубовіч і Г. Цэгак-Галубовіч, у 1956 і 1961 А. Р. Мітрафанаў, у 1985 В. І. Шадыра. Ускрыта 528 м² пл. Культурны пласт у цэнтры 0,2—0,4 м, каля зах. краю 0,6—0,75 м.

Выяўлены сляды наземнага жытла слупавой канструкцыі, некалькі гасп. ям і рэшткі каменных агнішчаў. Знойдзены касцяныя вырабы — прылады для пляцення сетак, нажы, праколкі, шпількі, наканечнікі дроцікаў і стрэл, загатоўкі нажоў і стрэл, вырабы з жалеза — сярпы, сякеры, шылы, нажы, косці свойскіх і дзікіх жывёл. Належала балтам.

Датуецца 6—1 ст. да н. э.

*Літ.:* 1313. *А. Р. Мітрафанаў, В. І. Шадыра.*

**ПАДЗА́МЧА,** прылеглы да *замка* ўчастак паселішча ў 14—18 ст. Выконвала ролю дадатковага ўмацавання на шляху да гал. замкавай брамы. Звычайна П. абводзілі абарончым валам з навальнымі канструкцыямі розных тыпаў (*гародні,* паркан, тарасы) з уязной шмат'яруснай вежай, зрэдку — бастыёнпымі ўмацаваннямі (Мірскі замак). Вакол П. мог быць сухі ці вадзяны роў (Барысаўскі, Жлобінскі, Іказненскі, Дубровенскі і інш. замкі). На П. канцэнтраваліся гасп. і дапаможныя службы замка: свірны, стайні, вазоўні, лядоўні, пякарні, кузні, дамы, дзе жылі замкавыя слугі. Культурны пласт П. звычайна сінхронны з культурнымі адкладаннямі на замкавым дзядзінцы.

**ПАДКЛЕ́ЦЦЕ,** ніжні паверх дома, які знаходзіўся пад святліцай. На тэрыторыі Беларусі зрубныя дамы на П. вядомы з 13 ст. ў Полацку, больш за 10 такіх дамоў 14—18 ст. выяўлена ў Віцебску. У залежнасці ад прызначэння П. мелі розныя вышыню (ад некалькіх вянкоў да 1,5—1,6 м) і канструкцыю. Нізкія П. часцей выкарыстоўвалі ў якасці сховішча для прадуктаў і маёмасці, высокія выконвалі функцыю вытворчых або жылых памяшканняў (жылыя П. найб. характэрны для радавых жыхароў 16—17 ст.). Паводле канструкцыі прасочваюцца П. з надворным уваходам і глухія; уваход у апошнія вёў звычайна са святліцы, для спуску выкарыстоўвалі прыстаўную лесвіцу. Будаваліся наземныя П.,



Да арт. **Падлога керамічная.** Непаліваная плітка з рэльефным арнаментам падлогі Гродзенскай Барысаглебскай царквы.

якія маглі мець фундаменты, і заглыбленыя ў зямлю на 0,8—1,3 м. Перад уваходам у заглыбленае П. рабілі прыступкі. У адпаведнасці з прызначэннем высокія П. маглі мець печ і валаковыя або зашклёныя вокны.

*Літ.:* 604, 945, 952, 1347. *Т. С. Бубенька.*

**ПАДКО́ВА,** жалезная дугападобная пласціна, якую прыбіваюць пад конскія капыты для засцярогі іх ад пашкоджання і каб пазбегнуць коўзання.

На тэр. Беларусі, як і ўсёй Усх. Еўропы, вядома з 11 ст. Існавала 2 віды падкоў: у выглядзе паўакружнасці з шыпам пасярэдзіне (характэрны для эпохі ранняга сярэднявечча, на Беларусі такія знаходкі рэдкія) і ў форме дугі з падоўжанымі канцамі, якая па перыметры ахоплівала ўвесь капыт (пашыраны з 13 ст.). На працягу 13—18 ст. іх форма амаль не мянялася, толькі колькасць цвікоў (вухналёў) павялічылася да 8—10, з'явілася спец. канаўка для цвіковых плешак, адгортка, якая накладалася на насок капыта і вінтавыя (здымныя) шыпы. Пры раскопках сярэдневяковых гарадоў П.— адна са шматлікіх знаходак.

*Літ.:* 532, 1033, 1409, 1440. *Г. М. Сагановіч.*

**ПАДЛО́ГА КЕРАМІ́ЧНАЯ.** На Беларусі вядома з 11 ст. Характэрна для мураваных будынкаў. У 11—12 ст. падлогу масцілі паліванымі пліткамі розных колераў (карычневы, зялёны, жоўты, салатны, чорны) і форм, таўшч. 1,8—2,5 см. У час раскопак *Полацкага Верхняга замка* знойдзены керамічныя пліткі, пакрытыя шэрай палівай з каляровымі кружочкамі. Пліткі выкладвалі ў выглядзе арнаментальнага малюнка, мацуючы іх на вапнавай рошчыне (*Полацкі Сафійскі сабор,* Полацкія храмы 12 ст. і інш.). Падлога Полацкага храма-пахавальні 12 ст. выкладзена керамічнымі пліткамі і тоўстай (0,6—0,8 см) *смальтай.* У Гродзенскіх храмах 12 ст. (Каложская царква, Ніжняя царква, Прачысценская царква) выяўлены ўчасткі падлогі з маёлікавых плітак, якія мацаваліся на глінянай падсыпцы вапнавай рошчынай. Фрагменты П. к. захаваліся ў *Навагрудскай Барысаглебскай царкве,* пліткі 12 ст. знойдзены пры раскопках у Віцебску, Друцку, Лагойску, Пінску. Падлога Гродзенскай Барысаглебскай царквы была вымашчана тоўстымі непаліванымі пліткамі з рэльефным арнаментам.

У 14—16 ст. падлогу мураваных будынкаў рабілі з цэглы прамавугольнай ці квадратнай формы звычайна пэўных памераў (14×13×8—7 см), яна знойдзена пры раскопках Мураванкаўскай царквы (Шчучынскі р-н). У 2-й пал. 16 — канцы 18 ст. выкарыстоўвалі непаліваныя пліткі (4—5, 6—7 см). Падлогі Гродзенскага Старога замка ў канцы 16 ст. вымашчаны прамавугольнымі (16×15,5×3,5 см) зялёнымі і карычневымі пліткамі. У 1-й пал. 17 ст. выкарыстоўвалі фігурныя паліваныя і тэракотавыя пліткі (Гальшанскі, Любчанскі, Мірскі замкі, Навагрудская Барысаглебская царква, Мінскі дамініканскі касцёл, Лагойск, Мсціслаў), у 2-й пал. 17—18 ст.— непаліваныя пліткі квадратнай, ромбападобнай і шасцівугольнай формы (Магілёў, Мінск, Мсціслаў, Пінск). У 19 ст. П. к. не рабілі. З канца 19 — пач. 20 ст. выкарыстоўвалі керамічныя пліткі накшталт метлахскіх, у т. л. замежнай вытворчасці, тэракотавыя і паліваныя пліткі мясц. прадпрыемстваў (Мінскі завод Авербуха і інш.). *А. А. Трусаў.*

**ПАДЛУ́ЖЖА,** комплекс археал. помнікаў каменнага і бронзавага вякоў каля в. Падлужжа Чачэрскага р-на.

П а с е л і ш ч а-1 эпохі верхняга палеаліту. Гл. *Бердыж.*

П а с е л і ш ч а-2 эпохі палеаліту. За 400 м на Пд ад вёскі, за паўд. ярам. Памеры 200×160 м уздоўж яра, 80×100 м упоперак. Адкрыў і даследаваў у 1953—54 К. М. Палікарповіч, даследавалі ў 1959—60 і 1969 У. Дз. Будзько, у 1971 А. Г. Калечыц.

Знойдзены наканечнікі коп'яў або нажы з бакавой выемкай і лістападобныя, разцы, ножападобныя пласціны, скрэблы, а таксама нуклеусы і

адшчэпы больш архаічнага выгляду (да 1000 рэчаў).

Наяўнасць прылад мусцьерскага тыпу можа сведчыць пра сярэднепалеалітычны ўзрост помніка, пра перажытачныя з'явы ў культуры верхняга палеаліту або наогул ставіцца пад сумненне.

Паселішча-3 *верхнедняпроўскай культуры* і сосніцкай культуры. За 300 м на ПдУ ад вёскі, на паўн.-ўсх. ускраіне паўн. яра, на тэрасе правага берага р. Сож, ва ўрочышчы Летнік. Даследавала ў 1974 Калечыц. Сабраны нуклеусы, пласціны, адшчэпы і інш. адходы крамянёвай вытворчасці, а таксама рубячыя прылады, скрабкі, разцы і фрагменты ляпнога посуду.

Паводле думкі некаторых даследчыкаў, існаваў ніжні культурны пласт познапалеалітычнага ўзросту з самымі раннімі знаходкамі *грэнскай культуры*.

*Літ.:* 172, 480.

**ПАДМУ́РАК,** складзеная з камянёў або цэглы на рошчыне або без яе («насуха») канструкцыя, на якой узводзіўся будынак. У залежнасці ад аб'ёму збудавання, наяўнасці падвалаў рабіліся П. рознай глыбіні і канструкцыі. П. з камянёў «насуха» выкарыстоўваліся пры будаўніцтве некаторых цэркваў 12 ст. ў Полацку (на дзядзінцы, на Ніжнім замку, Спаская царква, храм-пахавальня ў Спаса-Ефрасінеўскім манастыры). Неглыбокія П. з невял. камянёў, пакладзеныя «насуха», былі пад гродзенскімі храмамі 12 ст. У аснове некаторых П. выкарыстоўваліся 1—2 рады цэглы, залітыя растворам без цэменту (полацкі храм 12 ст.). Пад П. некаторых полацкіх будынкаў 12 ст. клалі драўляныя канструкцыі. З 13 ст. пашыраюцца П. з неапрацаваных камянёў. Глыб. залягання П. 3—5 м, што звязана з размяшчэннем будынкаў на балоцістай мясцовасці (Крэўскі замак). У сухіх грунтах закладаліся звычайна неглыбокія П. (каля 1 м). У 16 ст. з пашырэннем вытворчасці буд. керамікі П. рабілі таксама з цэглы (Нясвіжскі замак) або з выкарыстаннем мяшанай — цагляна-каменнай муроўкі (Мірскі замак). З 17 ст. акрамя суцэльных выкарыстоўваюцца арачныя канструкцыі П. (калегіум езуітаў у Пінску, гандлёвыя рады ў Шклове). *І. М. Чарняўскі.*

**ПАДРО́СЬ,** каменны могільнік 11—12 ст. каля в. Падрось Ваўкавыскага р-на. Размешчаны на Пд ад вёскі, на левым беразе р. Ваўкавы, на ўзвышшы Піскаж. Даследаваў ў 1936 Я. Фіцтке (8 магіл), матэрыялы даследаванняў у 1962 апублікавала Д. Ясканіс (захоўваюцца ў Дзярж. археал. музеі ў Варшаве). Могільнік складаецца з курганоў і грунтавых магіл, шчыльна (у 1 ці 2 рады) абкладзеных вял. камянямі.

Каменныя вымасткі прамавугольнай формы (даўж. 5,3 м, шыр. 1,7 м) размяшчаліся ўздоўж восі У—З. Шкілеты амаль не захаваліся, арыентаваны галавой на З, з бакоў абкладзены вял. камянямі. Паміж каменнымі вымасткамі знойдзены фрагменты ганчарнага посуду, аздобленага лінейным або хвалістым арнаментам, у цэсце гліны дамешкі жарствы. Адзін гаршчок пакрыты рыфленнем. Пахавальны інвентар: жал. нажы, калачападобныя крэсівы, пярсцёнкі з бронзавага дроту, пацеркі з каляровага шкла і з залатымі ўстаўкамі. На думку Ясканіс, могільнік пакінуты мазавецка-дрыгавіцкім насельніцтвам, аднак цяжка вызначыць, адбылося гэта ў ходзе каланізацыі зямель ці інш. шляхам.

*Літ.:* 1442. *А. В. Квяткоўская.*

**ПАДСЁЛЫ,** археал. помнікі каля в. Падсёлы Кіраўскага р-на.

Стаянка эпохі неаліту. За 500 м на Пн ад вёскі, на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Друць і правага берага яе прытока р. Белая. Памер 50×100 м. Адкрыў у 1980 і абследаваў у 1987 В. Ф. Капыцін. Раскопкі не праводзіліся. Сабраны канцавыя і паўзакругленыя скрабкі, нажы, нуклеусы, адшчэпы.

Стаянка позняга неаліту. За 1 км на Пд ад вёскі, 100 м на У ад дарогі на в. Рэкта, на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Друць. Памер 60×100 м. Адкрыў у 1981 і даследаваў 6 м² у 1982 В. Ф. Капыцін.

Упершыню ў басейне Друці выяўлены мікраліты (сегмент з рэтушаванай спінкай, вастрыі трохвугольнага абрысу), шматлікія наканечнікі стрэл, канцавыя скрабкі з адшчэпаў, вастры, праколкі, нажы, адшчэпы з рэтушшу. Сведчаннем апрацоўкі тут крэменю з'яўляюцца яго дробныя асколкі, лускавінкі, пласціны, адшчэпы, нуклеусы і іх абломкі. Сярод керамічных знаходак фрагменты пласкадоннага посуду з дамешкам буйназярністага кварцавага пяску і жарствы ў цэсце, арнаментаваныя ямачкамі і адбіткамі дробназубчастага грэбеня і расчосамі на ўнутранай паверхні. Венчыкі посуду прамыя, аддзелены гарызантальным радам ямачак. Сустракаюцца фрагменты ангабаванага посуду.

*Літ.:* 568, 578. *В. Ф. Капыцін.*

**ПАДСКА́РБІ,** адна з вышэйшых службовых асоб у ВКЛ, Польшчы і Рэчы Паспалітай, якая забяспечвала захаванасць казны, ажыццяўляла выплату жалавання войску, кантроль над зборам падаткаў і дзейнасцю манетных двароў. Да 1569 дзярж. казной ВКЛ кіраваў П. земскі, вялікакняжацкай — П. дворны, у Польшчы дзярж. казной — П. каронны, каралеўскай — П. надворны; П. «зямель прускіх» (Гданьскага Памор'я, Хелмінскай і Міхайлаўскай зямель, гарадоў Мальбарк і Эльблёнг, епіскапства Варміі) кантраляваў збор падаткаў, вызначаных Генеральным сеймам т. зв. «Каралеўскай Прусіі». З утварэннем Рэчы Паспалітай (1569) адказным за дзярж. казну ВКЛ быў вял. П. літоўскі, за вялікакняжацкую — П. надворны літоўскі, за дзярж. казну Польшчы — вял. П. каронны, за каралеўскую — П. надворны каронны; П. «земляў прускіх» ажыццяўляў ранейшыя функцыі.

*Літ.:* 1428. *В. Н. Рабцэвіч.*

**ПАЗЬНЯ́К** Зянон Станіслававіч (н. 24.4.1944, в. Субботнікі Іўеўскага р-на), беларускі археолаг, мастацтвазнавец, грамадскі і палітычны дзеяч. Канд. мастацтвазнаўства (1981). Скончыў Бел. тэатральна-мастацкі ін-т (1967). З 1972 навук. супрацоўнік Ін-та мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору, з 1976 — Ін-та гісторыі АН Беларусі. Даследуе ар-



З. С. Пазьняк.

хеалогію і архітэктуру сярэдневяковых гарадоў і мястэчак Беларусі, бел. мастацтва і мастацкую культуру, займаецца тэорыяй і практыкай аховы і аднаўлення культурна-гіст. спадчыны Мінска. Праводзіў раскопкі ў Мінску, Мядзеле, Лоску (Валожынскі р-н), Суботніках (Іўеўскі р-н), Курапатах пад Мінскам і інш. Народны дэп. Беларусі (з 1990). Старшыня Сойма БНФ «Адраджэнне», старшыня Т-ва памяці ахвяр сталінскіх рэпрэсій «Мартыралог Беларусі».

*Тв.:* Браслаўшчына: [Фотаальбом]. Мн., 1970; Рэха даўняга часу. Мн., 1985; У суладдзі з прыродай і чалавекам: Праграматворная функцыя помнікаў дойлідства // Мастацтва Беларусі. 1986. № 4; Мінскі кляштар дамініканцаў (разам з У. М. Дзянісавым) // Помнікі мастацкай культуры Беларусі: Новыя даслед.: Зб. арт. Мн., 1989; Сапраўднае аблічча. Мн., 1992.

*М. М. Чарняўскі.*

**ПАКРО́ЎСКІ** Фёдар Васілевіч [1855, в. Падпольскае Кастрамской вобл.— 31.7(13.8).1903], археолаг. Чл.-кар. Маскоўскага археал. т-ва (1893). Скончыў Пецярбургскую Духоўную акадэмію (1879). Выкладчык Мінскага (1879), Віленскага духоўных вучылішчаў (з 1880). Хавальнік Віленскага музея старажытнасцей (1884—1902), склаў фонда-

апісанне гэтага музея. Праводзіў археал. даследаванні на тэр. Беларусі, паўд.-ўсх. Літвы і Кастрамской губ. Склаў археал. карты Гродзенскай, Віленскай і Ковенскай губ. Прымаў удзел у падрыхтоўцы і правядзенні 9-га археал. з'езда.

*Тв.:* Археологическая карта Виленской губернии. Вильна, 1893; Археологическая карта Гродненской губернии. Вильна, 1895; Курганы на границе современной Литвы и Белоруссии // Труды девятого археологического съезда в Вильне, 1893. М., 1895. Т. 1; К исследованию бассейна Вилии в археологическом отношении. М., 1899.

*Т. М. Каробушкіна.*



**Ф. В. Пакроўскі.**

**ПАЛА́Ц,** манументальны парадна аформлены будынак з вял. колькасцю разнастайных памяшканняў. У старажытнасці П.— прадстаўнічая рэзідэнцыя князя, феадальнай знаці, сядзіба органаў улады. П. перыяду ранняга сярэднявечча ўключаліся ў склад *абарончых збудаванняў* і складалі з імі адзіны кампазіцыйны аб'ём.

Мураваныя П. на Беларусі бяруць пачатак з будаўніцтва княжацкіх харомаў 12 ст. ў Полацку і Гродне, якія разам з драўлянымі пабудовамі жылога і гасп. прызначэння, мураванай царквой складалі адзіны архіт. комплекс на дзядзінцы. Яны выкарыстоўваліся таксама для ўрачыстых прыёмаў. У 2-й пал. 13 ст. мураваны П. прамавугольнай формы ўзведзены побач з *Камянецкай вежай.* Спалучэнні жылога будынка і абарончай вежы, якая ў выпадку нападу ворага станавілася непрыступным фартыфікацыйным цэнтрам, вядомы ў гарадах Зах. Еўропы з 9 ст. Будынкі з палявога каменю, па агульных прынцыпах аб'ёмна-планіровачнай пабудовы падобныя да харомаў 12 ст., выяўлены на дзядзінцы ў Навагрудку і ў *Крэўскім замку.* Яны датуюцца адпаведна сярэдзінай — 2-й пал. і 1-й пал. 14 ст. Для ўзвядзення наземных частак будынкаў, а таксама пры вымуроўцы архіт. дэталей у іх выкарыстоўвалася буйнапамерная цэгла. Неўзабаве пасля завяршэння будаўніцтва абарончых муроў у Крэўскім замку была ўзведзена вуглавая княжацкая вежа, 3-і і 4-ы паверхі якой выкарыстоўваліся для жылля. Пра гэта сведчаць аздобленыя фрэскавым жывапісам адкосы аконных праёмаў, шматлікія знаходкі фрагментаў тынкоўкі столі і сцен з фрэскавай размалёўкай, кавалкі кафляў і керамічнага посуду 14—17 ст., выяўленыя ў сярэдзіне вежы. У канцы 14 ст. аналагічная па функцыянальным прызначэнні вежа была збудавана ў паўн.-ўсх. куце *Лідскага замка.* У 14 ст. мураваныя будынкі грамадзянскага, як і выключна абарончага, прызначэння накрываліся жалабатай дахоўкай, якая мела на пукатай паверхні рогападобны шып. З будаўніцтвам замкавых веж з жылымі функцыямі ў Крэве і Лідзе пачалося развіццё палацава-замкавых комплексаў, у якіх жылыя і гасп. будынкі ўключаліся ў шэраг пабудоў абарончага характару і выконвалі звычайна функцыі абароны. У канцы 14—15 ст. на *Гродзенскім Старым замку* разам з абарончымі пабудовамі быў узведзены двухпавярховы палац. Яго знадворны фасад, мяркуючы па выяўленых пры архіт.-археал. даследаваннях рэштках муровак і канструкцый, меў прадстаўнічы выгляд з элементамі аздаблення і архіт. дэталямі, характэрнымі для гатычнага дойлідства. Тыльная сцяна, якая выходзіла на схіл замчышча, адначасова выконвала і абарончыя функцыі. Перад гал. фасадам палаца двор быў забрукаваны. У 2-й пал. 16 ст. будынкі замка, у т. л. і палаца, былі перабудаваны ў рэнесансавым стылі, у 17 ст. замак набыў рысы, характэрныя для барочнай архітэктуры, аднак размяшчэнне пабудоў на замку заставалася нязменным. Характэрнай асаблівасцю Гродзенскага гатычнага замка з'яўлялася наяўнасць побач з палацам абарончай вежы-«сталпа», збудаванай у 13 ст. Падобнае спалучэнне вежы і палаца, адпаведна 15 і 16 ст., выяўлена пры раскопках і ў *Мядзельскім замку.*

З канца 15 — пач. 16 ст. пашыраецца будаўніцтва прыватнаўласніцкіх мураваных замкаў, якія мелі чатырохвугольны план, з 4 вежамі па вуглах і 5-й надбрамнай вежай. Яны былі ўзведзены ў Іказні, Міры, Любчы. Палацы ў іх размяшчаліся звычайна ўздоўж адной з абарончых сцен, выконвалі адначасова і фартыфікацыйнае прызначэнне. Асаблівай адметнасцю сярод іх вызначаўся *Мірскі замак.* З'яўляючыся магутным абарончым збудаваннем, ён дзякуючы выкарыстанню на фасадах вежаў, праслах сцен паміж імі багатага архіт. дэкору мае выгляд рэспектабельнай магнацкай рэзідэнцыі. Палац у ім размяшчаўся ўздоўж паўд. сцяны. У 2-й пал. 16 ст. пры будаўніцтве замка ў Заслаўі абарончыя збудаванні былі аддзелены ад жылых і культавых. Спачатку былі насыпаны земляныя бастыёны і курціны, на ўтвораным дзядзінцы размясціліся мураваныя палац і кальвінскі збор. У канцы 16 ст. ў месцы праезду, на замчышча праз паўд. курціну была ўзведзена мураваная брама на 2 паверхі. У паўн. курціне знаходзілася малая мураваная брама. З будаўніцтвам бастыённага замка ў Нясвіжы (пасля 1583) зроблены істотны крок у развіцці палацава-замкавых ансамбляў. У межах штучных земляных умацаванняў створана сіметрычная забудова, якая складалася з гал. корпуса з багата аздобленым дэкорам і архіт. дэталямі, галоўным фасадам, 2 трохпавярховых будынкаў, размешчаных абапал двара. Ва ўсх. курціне была збудавана мураваная брама з вежай. Будаўнікі замка, відаць, разлічвалі на моц бастыённай абарончай сістэмы, што дазволіла ім надаць асаблівую ўвагу стварэнню прадстаўнічай магнацкай рэзідэнцыі. Шматпавярховыя карпусы палаца значна выступаюць над землянымі бастыёнамі і курцінамі. У гэты час адбывалася перабудова Мірскага замка: вакол яго былі насыпаны бастыёны з курцінамі, уздоўж усх. і паўн. абарончых муроў быў пабудаваны трохпавярховы палац, гасп. пабудовы — звонку пад зах. і паўд. мурамі. Колішні гатычны палац уздоўж паўд. мура быў перабудаваны пад замкавую кухню. Байніцы на галерэі і на ўзроўні 1-га паверха былі замураваны. У абарончых мурах і сценах вежаў будаўнікі прабілі вял. аконныя праёмы, якія аздобілі каменнымі абрамленнямі. Адзіным абарончым прыстасаваннем у замку было падкovападобнае перадбрам'е, збудаванае перад уездам у 2-й пал. 16 ст. Замак быў пераўтвораны ў прадстаўнічы магнацкі палац, шыкоўна аздоблены знешне і знутры, дзе асабліва вылучаліся рознахарактарныя кафляныя печы. На апошнюю чвэрць 16 — пач. 17 ст. прыпадае будаўніцтва *Гальшанскага замка,* які складаўся з размешчанага чатырохвугольнікам палаца з унутраным дваром, 4 вуглавых і 5-й надбрамнай вежаў. Галоўны фасад завяршаўся атыкам, па знадворным фасадзе паўн.-ўсх. часткі палаца праходзіла галерэя, сцены былі аздоблены лепкай. Інтэр'еры ўпрыгожвалі насценная размалёўка, падлогі з керамічных плітак рознай формы, разнастайныя па формах і дэкоры кафляныя печы, лепка. Фасады палаца і вежаў праразалі вял. па памерах аконныя праёмы. Усё гэта сведчыць пра будаўніцтва шыкоўнай рэзідэнцыі магнацкага роду, а не абарончага збудавання. У 18 ст. пасля шэрага перабудоў першапачатковага палаца 16 ст. канчаткова склаўся ансамбль Ружанскага палаца. Узведзены ён па строга сіметрычных прынцыпах у формах класічнай архітэктуры. З аднаго боку яго кампазіцыйная пабудова нагадвае замкнёны рад будынкаў палацава-замкавых ансамбляў, якім быў Нясвіжскі замак. Разам з тым Ружанскі палац з'яўляецца выключна грамадзянскім збудаваннем без якіх-небудзь элементаў абарончай архітэктуры. У глыбіні двара размяшчаўся ўласна палац з багата аздобленым архіт. элементамі гал. фасадам, насупраць яго знаходзілася брама, абапал якой размяшчаліся двухпавярховыя карпусы. Па баках двара знаходзіліся 2 флігелі, злучаныя з палацам крытай каланадай і з карпусамі каля ўязной брамы агароджай з невял. брамамі. У развіцці палацавага будаўніцтва на Беларусі прасочваюцца 3 перыяды. Першы прыпадае на 12—13 ст., калі палац займаў на дзядзінцы дастаткова самастойнае месца. З 14 ст., калі ўзводзяцца мураваныя замкі з жылымі вежамі ў шэрагу іх абарончых муроў, пачынаецца перыяд станаўлення палацава-замкавых комплексаў. У іх палац, апроч сваёй традыцыйнай функцыі (жыллё, месца правядзення ўрачыстасцей, часткова гасп. прызначэнне), выконваў дастаткова

значную ролю абарончага збудавання. З сярэдзіны 16 ст., калі быў пабудаваны *Заслаўскі замак*, функцыі абароны бяруць на сябе насыпныя бастыёны і курціны, якія абкружаюць пабудовы грамадзянскага і культавага прызначэння. У 18 ст. завяршаецца фарміраванне палацаў як манументальных парадна афармленых будынкаў, якія канчаткова страчваюць абарончыя функцыі і цалкам аддзяляюцца ад фартыфікацыйных збудаванняў.

*І. М. Чарняўскі.*

**ПАЛАЧА́НЕ**, частка ўсх.-слав. групы *крывічоў*, якія ў 9 ст. насялялі тэр. сучаснай Віцебскай і Пн Мінскай абласцей. На Пд межавалі з *дрыгавічамі*, на ПдУ са смаленскімі крывічамі, на Пн і У з ізборскімі крывічамі і наўгародскімі *славенамі*, на З і ПнЗ з *літоўскімі плямёнамі*. Паводле «Аповесці мінулых гадоў», П.— славяне, якія атрымалі назву ад р. Палаты (прыток Зах. Дзвіны). На думку некаторых даследчыкаў, П.— саюз плямён, што вылучыліся з крывіцкага аб'яднання плямён з цэнтрам у Полацку, ад якога і атрымалі сваю назву. Стварылі адно з ранніх тэрытарыяльна-палітычных аб'яднанняў, племяннóе «княжэнне», якое дало пачатак Полацкаму княству. Самыя стараж. археал. помнікі — могільнікі *доўгіх курганоў Паўночнай Беларусі культуры*, паселішчы ў Полацку, Віцебску, Лукомлі, Свіла, Дзіўная і інш.

*Г. В. Штыхаў.*

**ПАЛА́Ш** (венг. pallos), халодная зброя блізкага бою ў выглядзе доўгага (да 90 см) і простага аднлязовага клінка. Прызначаўся для нанясення сякучага або колючага ўдару. Вядомы ў Еўропе з 16 ст.

Форма дзяржання, блізкая да шабельнай, з 18 ст. меў ахоўную чашку (гард). Насілі П. ў акаваных металам скураных похвах, якія мацавалі да паса ці да сядла з левага боку. На Беларусі шырока выкарыстоўваўся ў 17—18 ст., калі быў на ўзбраенні конных вайсковых фарміраванняў — гусараў, драгунаў і інш. Пісьмовыя крыніцы гэтага часу П. часам называлі гусарскую шаблю.

*Літ.:* 1027, 1109, 1457, 1468.

*Г. М. Сагановіч.*

**ПАЛЕААНТРАПАЛО́ГІЯ** (ад грэч. palaiós старажытны + *антрапалогія*), раздзел антрапалогіі, які вывучае змены фізічнага тыпу чалавека ад першапачатковых стадый яго існавання (архантрапы) да канчатковага сфарміравання вялікіх рас сучаснага чалавецтва *(неаантрапы)*. Некаторыя даследчыкі лічаць, што аб'ектам вывучэння П. з'яўляюцца ўсе выкапнёвыя рэшткі чалавека да 19 ст. П. цесна звязана з *палеанталогіяй, палеабатанікай*, археалогіяй, геалогіяй *антрапагену*, у пач. якога чалавек вылучыўся з жывёльнага свету. Данымі П. карыстаюцца пры вывучэнні суадносін антрапа- і сацыягенезу, гісторыі фарміравання, рассялення, узаемадзеяння і ўзаемаўплыву расавых тыпаў і ў сувязі з некаторымі пытаннямі *антрапагенезу* і этнагенезу.

*Літ.:* 27, 30. *І. І. Салівон.*

**ПАЛЕАА́НТРАПЫ** (грэч. palaiós старажытны + ánthrōpos чалавек), выкапнёвыя людзі, якія жылі ў эпоху ніжняга (ранняга) і сярэдняга палеаліту (150—35 тыс. г. таму назад). Гл. *Неандэртальцы.*

**ПАЛЕАБАТА́НІКА** (грэч. palaiós старажытны + botánē трава, зеляніна), палеафіталогія, навука пра выкапнёвыя расліны, галіна *палеанталогіі* і батанікі. Вывучае гісторыю расліннага покрыва Зямлі. Зыходзячы з таго, што расліны — найлепшыя індыкатары клімату, з дапамогай іх вывучэння магчыма рэканструяваць палеагеаграфічнае асяроддзе, у якім існавала стараж. насельніцтва. Археалогія шырока карыстаецца вынікамі гал. чынам 2 раздзелаў П.: паліналогіі і палеакарпалогіі. Паліналогія (ад грэч. palinō зноў, узнаўленне) вывучае пылок і споры раслін. Дзякуючы здольнасці раслін кожнага роду і віду прадуцыраваць пылок ці споры толькі для іх характэрнай формы, якія ў спрыяльных умовах захоўваюцца ў выкапнёвым стане доўгі час, па іх рэштках можна вызначыць прыналежнасць выкапнёвых раслін да пэўнага роду, віду ці сямейства. Гэта ў сваю чаргу дазваляе рэканструяваць склад флоры і расліннага свету і аднавіць гісторыю развіцця расліннага покрыва пэўнага краю ад глыбокай старажытнасці да сучаснасці. У археалогіі найб. шырока выкарыстоўваецца перыядызацыя развіцця лясной расліннасці *галацэна*, што дапамагае датаваць помнікі каменнага веку. Палеакарпалогія (грэч. karpos плод) вывучае рэшткі пладоў і насення, якія захаваліся ў старажытных адкладах.

На Беларусі ў 1970—90-я г. палеабатанічныя даследаванні дасягнулі высокага ўзроўню. Вынікі іх шырока выкарыстоўваюцца даследчыкамі пры палеагеаграфічных рэканструкцыях стараж. эпох (А. Г. Калечыц пры складанні палеагеаграфічнага агляду часу першапачатковага засялення Беларусі чалавекам, М. М. Чарняўскім для вызначэння палеагеаграфічнага асяроддзя неалітычнага насельніцтва стаянкі *Зацэнне* і інш.).

*Літ.:* 317, 480. *А. Г. Калечыц.*



Да арт. **Палачане.** Выява дружынніка-палачаніна. Рэканструкцыя І. У. Чаквіна па чэрапе з курганнага могільніка Лукомль Чашніцкага р-на. 11 ст. Скульптар Л. П. Яшэнка.



Да арт. **Палачане.** Выява палачаніна. Рэканструкцыя І. У. Чаквіна па чэрапе з курганнага могільніка-5 Дарахі Гарадоцкага р-на. Канец 10 — пач. 11 ст. Скульптар Л. П. Яшэнка.

**ПАЛЕАГЕАМАРФАЛО́ГІЯ** (грэч. palaiós старажытны + gē Зямля + + lógos навука), вывучэнне і рэканструкцыя стараж. рэльефу шляхам назірання за яго рэліктавымі формамі, вызначэнне берагавых ліній стараж. вадаёмаў паводле складу і біястратыграфіі адпаведных адкладаў. Даныя палеагеамарфала-

гічныхназіранняў выкарыстоўваюцца для вызначэння шляхоў першаснага пранікнення, рассялення, месцаў жыхарства стараж. насельніцтва. Заўважана непасрэдная сувязь паміж формамі рэльефу (элементамі стараж. далін) і ўзростам звязаных з імі рэшткаў стараж. паселішчаў. Гэта дазваляе выкарыстоўваць археал. даныя пры геалагічных даследаваннях і стварэнні геахраналагічнай шкалы. На Падняпроўі, напр., палеалітычныя і мезалітычныя паселішчы, як правіла, звязаны з 2-й надпоплаўнай тэрасай. Дзякуючы магчымасці датаваць метадам $^{14}C$ арганічныя рэшткі з паселішчаў (напр., *Бердыж, Юравічы*) можна вызначыць узрост адкладаў, у якіх яны знойдзены, і час утварэння тэрасы. Неалітычныя паселішчы найчасцей сустракаюцца на астанцах першых надпоплаўных тэрас, пясчаных пагорках рознага генезісу на поплаве. Насельніцтва, якое жыло ў далінах рэк Балтыйскага басейна, звычайна займала больш высокія тэрасы. Усе археал. пошукі абавязкова вядуцца з улікам дадзеных П.

*А. Г. Калечыц.*

**ПАЛЕАДЭМАГРА́ФІЯ** (грэч. palaiós старажытны + dēmos народ + +graphō пішу), галіна грамадскай навукі на стыку дэмаграфіі, археалогіі, антрапалогіі і гісторыі, якая вывучае і рэканструіруе дэмаграфічныя паказчыкі і працэсы ў старажытнасці: колькасць насельніцтва, яго міграцыі, шчыльнасць і характар рассялення, узроставаполавую структуру, працягласць жыцця, узровень смяротнасці і інш. Грунтуецца пераважна на археал. і антрапалагічным матэрыялах, сярэдневяковых і больш позніх падатковых перапісах насельніцтва. Першыя спробы палеадэмаграфічных даследаванняў на Беларусі былі зроблены ў дарэвалюцыйны час, калі на падставе падліку курганных могільнікаў і шчыльнасці іх размяшчэння на пэўнай тэрыторыі даследчыкі (у прыватнасці, У. З. Завітневіч) меркавалі пра агульную колькасць насельніцтва пэўных рэгіёнаў або плямён. Пазней па меры назапашвання палеаантрапалагічных матэрыялаў, развіцця і ўдасканалення антрапалаг. (краніяметрычных) метадаў даследчыкі (Г. Ф. Дэбец, В. П. Аляксееў, Т. І. Аляксеева і інш.) змаглі даць асн. дэмаграфічныя характарыстыкі асобных стараж. папуляцый усх. славян, у т. л. пэўных тэрытарыяльных груп *крывічоў, дрыгавічоў, радзімічаў, валынян*, севяран, вяцічаў і інш. У значнай ступені былі вырашаны пытанні пра колькасць насельніцтва ў 9—13 ст., розніцы ў працягласці жыцця мужчын і жанчын, гар. і сельскіх груп жыхароў, дзіцячай смяротнасці і інш. У апошнія гады П. ўзбагацілася сучаснымі статыстычнымі метадамі даследавання, пашырыліся яе храналагічныя рамкі, павялічылася колькасць выкарыстанага матэрыялу. Розныя пытанні П. насельніцтва Беларусі 10—18 ст. разглядаюцца ў працах Аляксеевай, І. І. Салівон, Г. Чэсніса, І. У. Чаквіна і інш.

*Літ.:* 28, 29, 54, 303, 352, 381, 1041, 1307, 1402. *І. У. Чаквін.*

**ПАЛЕАЛІ́Т** (грэч. palaiós старажытны + líthos камень), старажытнакаменны век, першая з трох асноўных эпох *каменнага веку*. Пачатак П. супадае з паяўленнем найстаражытнейшых малпападобных людзей — архантрапаў (больш за 2 млн. г. таму назад, верхні пліяцэн), а канец (у Еўропе) адпавядае часу заканчэння плейстацэну (10,5—10 тыс. г. назад). П. падзяляецца на ніжні (ранні), сярэдні (*мусцье*) і верхні (позні). Частка даследчыкаў не вылучае сярэдні палеаліт, мусцьерскую культуру яны адносяць да ранняга палеаліту. У эпоху ніжняга і сярэдняга П. жылі архантрапы і палеантрапы, верхняга — неаантрапы.

На Беларусі найб. старажытныя (мусцьерскага часу) палеалітычныя адзінкавыя крамянёвыя прылады працы, якія не маюць дакладнай стратыграфічнай прывязкі, знойдзены каля в. Абідавічы Быхаўскага і Чамярня Веткаўскага р-наў. Выяўлены доўгачасовыя верхнепалеалітычныя паселішчы (26—24 тыс. г. таму назад) *Юравічы* Калінкавіцкага і *Бердыж* Чачэрскага р-наў. У фінальным палеаліце (12—11-е тысячагоддзі да н. э.) на Дняпры і Сажы пачала складвацца *грэнская культура*, у 10-м тысячагоддзі да н. э. на тэр. Валыні, Зах. Палесся, у бас. Нёмана і Віслы — *свідэрская культура*. Асновай гасп. дзейнасці на працягу ўсяго П. было паляванне, якое дапаўнялася збіральніцтвам. У неандэртальцаў (першых людзей, што паявіліся на тэр. Беларусі) было некалькі дзесяткаў форм прылад працы, рэшткі слядоў выкарыстання якіх сведчаць пра шматфункцыянальнае іх прымяненне для рэзання, стругання, свідравання, апрацоўкі дрэва, косці і скур. Неандэртальцы будавалі жытлы, карысталіся агнём. Да гэтага часу адносяцца праявы першабытнага мастацтва і першых рэлігійных вераванняў, найстаражытнейшыя пахаванні, упершыню вылучаюцца *археалагічныя культуры*, у якія даследчыкі аб'ядноўваюць групы падобных па складу прылад працы мусцьерскіх помнікаў. Да пачатку верхняга П. адносіцца ўзнікненне чалавека сучаснага фізічнага тыпу (Homo sapiens). На працягу гэтай эпохі чалавецтва значна пашырыла арэал рассялення, чалавек навучыўся жыць у прыледавіковай (перыгляцыяльнай) зоне, асвоіў амаль усе прыродныя зоны. Большая разнастайнасць асартыменту прылад працы і ўдасканаленне спосабаў іх вырабу спрыялі ўзнікненню шматлікіх верхнепалеалітычных культур. Сістэматычна ўдасканальваліся прылады працы, спосабы палявання, домабудаўніцтва, выраб вопраткі і інш. Чалавечыя калектывы, якія засн. Юравіцкую і Бердыжскую стаянкі, жылі ў вельмі суровых умовах перыгляцыяльнага клімату напярэдадні найб. халоднага ў гісторыі Зямлі валдайскага зледзянення. Галоўнымі аб'ектамі палявання першабытных абшчын былі буйныя жывёлы (мамант, шарсцісты насарог, алень, конь, першабытны бык, мядзведзь і інш.). На верхнепалеалітычных стаянках Беларусі знойдзены наканечнікі стрэлаў, нажы, скрабкі, прымітыўныя рубячыя прылады, разцы і інш. На змену П. прыйшоў *мезаліт*.

*Літ.:* 480. *А. Г. Калечыц.*

**ПАЛЕАМАГНІ́ТНЫ МЕ́ТАД ДАТАВА́ННЯ** (грэч. palaiós старажытны + magnētis магніт), метад даследавання, заснаваны на вывучэнні намагнічанасці горных парод, якая адпавядае накіраванасці зямнога магнітнага поля ў мінулыя геалагічныя эпохі. Вывучаючы астаткавую намагнічанасць, можна вызначыць велічыню і напрамак стараж. магнітнага поля і з дапамогай палеамагнітнай эталоннай шкалы, распрацаванай для апошніх 4,5 млн. гадоў, датаваць тыя ці іншыя геалагічныя ўтварэнні і археал. рэшткі, якія ім адпавядаюць.

Часцей за ўсё палеамагнітныя даследаванні праводзяцца разам з калійаргонавым датаваннем, іх вынікі ўдакладняюць адзін аднаго. П. м. д. шырока выкарыстоўваецца пры вызначэнні ўзросту адкладаў, у якіх знаходзяць рэшткі стараж. гамінідаў у Афрыцы, а таксама пры датаванні найб. стараж. паселішчаў на Пд Сібіры (Улалінка) і на Каўказе (Азых). Для патрэб археалогіі Беларусі П. м. д. пакуль не выкарыстоўваўся.

*Літ.:* 184. *А. Г. Калечыц.*

**ПАЛЕАНТАЛО́ГІЯ** [грэч. palaiós старажытны+on (ontos) існае+logos вучэнне], навука, якая вывучае ўсе праяўленні жыцця ў геалагічным мінулым Зямлі на розных узроўнях — экасістэм, папуляцый, арганізмаў, субклетак. Як самастойная навука ўзнікла на мяжы 18 і 19 ст. Яе заснавальнікамі лічацца франц. вучоныя Ж. Кюв'е, Ж. Ламарк і А. Бран'яр. Тэрмін П. ўвёў французскі заолаг А. Бленвіль (1825). Па метадалогіі, аб'ектах і метадах даследаванняў П.— біялагічная навука, асн. крыніцай якой з'яўляюцца выкапнёвыя арганізмы, сляды іх жыццядзейнасці. Мае 2 асн. аддзелы: *палеабатаніку* і палеазаалогію; асобна вылучаюць *палеаэкалогію*, мікрапалеанталогію, палеабіягеаграфію. Заканамернасці пахавання і распаўсюджання выкапнёвых рэшткаў у асадкавых пародах вывучае тафаналогія і біястратаномія, сляды жыццядзейнасці — палеаіхналогія. П. як адна з крыніц інфармацыі аб асяроддзі пражывання чалавека на стараж. этапах яго развіцця цесна звязана з гісторыяй, *антрапалогіяй*. На Беларусі палеанталагічныя даследаванні вядуцца ў Бел. н.-д. геолагаразведачным ін-це (з 1951), Ін-це геахіміі і геафізікі.

*Літ.:* 862, 1135. *Н. П. Александровіч.*

**ПАЛЕАПАТАЛО́ГІЯ** (ад грэч. palaiós старажытны + pathos хвароба + lógos вучэнне), навука пра хваравітыя змяненні ў арганізме чалавека, жывёл і раслін, што існавалі на Зямлі ў далёкія часы. Вывучае прычыны і механізмы развіцця хвароб і паталагічных працэсаў шляхам даследавання марфалагічных змен органаў і тканак. Пры палеапаталагічных даследаваннях выкарыстоўваюць паталагаанатамічны, гісталагічны, рэнтгенаструктурны і інш. метады. Тэрмін П. ўведзены англійскім вучоным Раферам у 1913. П. цесна звязана з *палеанталогіяй*, археалогіяй і медыцынай. У археал. даследаваннях П. выкарыстоўваецца для вывучэння паталогіі касцей чалавека і жывёл, выкліканай прыжыццёвымі зменамі касцявых тканак у выніку захворванняў (астэапароз, астэома, астэадыстрафія, карыес і інш.) і ад уздзеяння знешняга асяроддзя (траўмы, вынікаў аказання медыцынскай дапамогі, голаду, нагрузак і інш.). Палеапаталагічныя даследаванні дазваляюць вызначыць старажытнасць і распаўсюджанне многіх хвароб у розныя гіст. часы. На Беларусі пытанні П. чалавека вывучае з 1970 Л. М. Казей.

*Літ.:* 476. *Н. П. Александровіч.*

**ПАЛЕАЭКАЛО́ГІЯ** (ад грэч. palaiós старажытны + oikos дом, жыллё + lógos навука), раздзел палеанталогіі, палеабатанікі, экалогіі, які вывучае спосабы жыцця і ўмовы пражывання арганізмаў у геалагічным мінулым, устанаўлівае ўзаемаадносіны паміж імі і асяроддзем (экасістэмы) і іх змены на працягу развіцця жыцця на Зямлі. Адна з задач палеаэкалогіі — рэканструкцыя гісторыі сацыяльнай і біялагічнай адаптацыі чалавечага грамадства да змен навакольнага асяроддзя (экасацыягенез). Метады П. выкарыстоўваюцца ў археалогіі. У сваю чаргу даныя археалогіі неабходны для палеаэкалагічных высноў. У археалогіі Беларусі спробы палеаэкалагічных распрацовак толькі пачаліся. *А. Г. Калечыц.*

**ПАЛІ́ВА**, глазура, шклопадобнае дэкаратыўна-засцерагальнае пакрыццё, якое наносіцца таўшч. 0,1—0,3 мм на паверхню керамічных вырабаў і замацоўваецца абпалам пры высокіх тэмпературах. Асн. кампаненты П.— кварцавы пясок, гліна і вокіслы металаў (медзі, жалеза, марганцу і інш.) у якасці фарбавальнікаў.

Падзяляецца: паводле спосабу прыгатавання — на П. сырую (не ўтрымлівае растваральных у вадзе кампанентаў) і фрытаваную (атрымліваецца шляхам спякання або сплаўлення часткі ці ўсёй глазурнай шыхты, пасля чаго растваральныя ў вадзе кампаненты пераходзяць у нерастваральныя сілікаты і інш. злучэнні); паводле саставу на палёвашпатавыя, свінцовыя, борнасвінцовыя, стронцыевыя і інш.; паводле тэмпературы абпалу на легкаплаўкія (ніжэй за 1200 °С) і тугаплаўкія (вышэй за 1200 °С); па знешнім выглядзе і структуры паверхні на празрыстыя і глухія (у т. л. апакавыя), крышталічныя (цынкавыя), дробнакрышталічныя (тыпу авантурынавых), бліскучыя, матавыя, з сеткай трэшчын (кракле), пузыраватай паверхняй і інш. Да характарыстык П. часам дадаюць вызначэнне, звязанае з падабенствам колеру да прыроднага (напр., карал).

На тэр. Беларусі з 12 ст. выкарыстоўвалі дэкаратыўныя пліткі і бытавую кераміку з глухой каляровай П. (Віцебск, Гродна, Пінск, Полацк, Тураў). Наносілі яе на папярэдне абпаленыя або прасушаныя керамічныя вырабы (кафлю, посуд, цацкі, люлькі) сухім напыленнем на апрацаваную ліпкім саставам паверхню праз густое сітца-пытлік (чэшск. pytlík мяшэчак) або паліваннем (адсюль назва). Пры сухой П. посуд абмазвалі дзёгцем (усх. раёны), пры вадкім спосабе выкарыстоўвалі ваду або рэдкі мучны клейстар (зах. раёны). У 2-й пал. 13—1-й пал. 15 ст. П. не выкарыстоўвалася. З канца 15 ст. посуд і кафлю пакрывалі легкаплаўкай свінцовай П. зялёнага і карычневага колераў розных адценняў. З 2-й пал. 16 ст. пашыраны паліхромная П. і тэхніка пакрыцця кафлі і посуду глухой каляровай П. (эмаллю); шырока выкарыстоўвалі таксама празрыстую П. для пасудзін, размаляваных *ангобам* ці керамічнымі фарбамі. У 16 ст. П. наносілі тоўстым слоем пераважна на ўнутраную паверхню посуду, толькі кубкі і кафлю палівалі з абодвух бакоў. На Беларусі вядома П. на свінцовай аснове з дабаўкамі злучэнняў волава, медзі і жалеза. Пашыраны зялёны, карычневы, блакітны, сіні, жоўты, белы колеры П. З 18 ст. кераміку размалёўвалі вокісламі металаў па эмалі, у якасці фарбавальніка сіняга колеру выкарыстоўвалі вокісел кобальту. Па асн. і дадатковых кампанентах П. нязначна адрозніваўся ад керамічнай масы, што дазваляла пазбегнуць трэшчын пры абпале. Наносілася яна звычайна без папярэдняга абпалу пасудзін з наступнай тэрмічнай апрацоўкай пры тэмпературы не вышэй за 800 °С.

*Н. І. Здановіч, І. Я. Раханск..., І. І. Сінчук, Б. А. Філонаў.*



К. М. **Палікарповіч.**

**ПАЛІКАРПО́ВІЧ** Канстанцін Міхайлавіч [6(18).3.1889, в. Белая Дуброва, цяпер Касцюковіцкага р-на — 20. 2.1963], беларускі археалаг. Канд. гіст. навук (1951). Скончыў Магілёўскую духоўную семінарыю (1909). Настаўнічаў у школах Чэрыкаўскага пав. Чл. гісторыка-археал. камісіі Інбелкульта (1925—26). З 1929 у Ін-це гісторыі АН БССР (навук. супрацоўнік, заг. сектараў). У 1941—42 у Казахстане у час геалагічных экспедыцый даследаваў і археал. помнікі. На Беларусі і ў Бранскай вобл. адкрыў і вывучаў палеалітычныя *(Бердыж, Елісеевічы, Падлужжа, Юдзінава, Юравічы)* і мезалітычныя *(Журавель, Крыжы)* стаянкі, помнікі неаліту і бронзы *(Крывіна, Стрэліца)*. Вёў разведвальныя работы з мэтай выяўлення новых помнікаў на Бесядзі, Дняпры, Іпуці, Сажы, Случы і інш. Першым выказаў думкі пра засяленні тэр. Беларусі першабытным чалавекам у старажытнакаменным веку, што першабытныя чалавек рабіў аснову жытлаў з чарапоў і інш. буйных касцей мамантаў, а рэбры выкарыстоўваў як землекапалкі. Вывучаў касцярэзнае майстэрства першабытных людзей.

*Тв.:* Дагістарычныя стаянкі сярэдняга і ніжняга Сажа // Запіскі аддзела гуманітарных навук Ін-та беларускай культуры. Мн., 1928. Кн. 5. Працы кафедры археалогіі, т. 1; Дагістарычныя стаянкі сярэдняга Сажа // Запіскі аддзела гуманітарных навук БАН. Мн., 1930. Кн. 11. Працы археалагічнай камісіі, т. 2; Знаходкі рэштак чацвярцёвай фауны на тэрыторыі БССР // Працы секцыі археалогіі Ін-та гісторыі БАН. Мн., 1932. Т. 3; Палеолит и мезолит БССР и некоторых соседних территорий Верхнего Приднепровья // Труды II Междунар. конф. ассоциации по изучению четвертичного периода Европы. Л.; М.; Новосибирск, 1934. Вып. 5; К вопросу о мустьерской культуре в Верхнем Поднепровье // Материалы по археологии БССР. Мн., 1957. Т. 1; Палеолит Верхнего Поднепровья. Мн., 1968.

*Т. М. Каробушкіна.*

**ПАЛІРАВА́ННЕ,** паліроўка (ням. polieren паліраваць), апрацоўка матэрыялу да атрымання люстранага бляску паверхні. Сярод археал. знаходак на Беларусі вядомы каменныя сякеры бронзавага веку, бронзавыя кінжалы, люстэркі 12—13 ст. (Дрысвяты), інш. рэчы.

**ПАЛО́СКІ**, археал. помнікі каля в. Палоскі Дрыбінскага р-на.

Стаянка *верхнедняпроўскай культуры*. За 1,5 км на ПнЗ ад вёскі, 2 км на Пд ад Дрыбіна, на 1-й надпоймавай тэрасе левага берага р. Проня. Адкрыў у 1985 і даследаваў 64 м² у 1989 В. Ф. Капыцін. Знойдзены крамянёвыя прылады працы — канцавыя скрабкі, вастрыі, вырабы з выемкай, разцы, наканечнікі стрэл, шматлікія прадукты расшчаплення крэменю — нуклеусы, пласціны, адшчэпы, сколы, дробныя асколкі і лускавінкі. У якасці сыравіны выкарыстоўваўся цёмна-шэры мелавы крэмень, выхады якога вядомы па берагах Проні каля Дрыбіна. Каменны інвентар і тэхніка яго апрацоўкі, а таксама керамічны матэрыял сведчаць пра познанеалітычны ўзрост стаянкі.

Курганны могільнік эпохі Кіеўскай Русі. На паўд. ускраіне стаянкі. 4 насыпы выш. 0,5—0,7 м, дыям. 10—12 м, адзін разбураны кар'ерам. Раскопкі не праводзіліся.

*В. Ф. Капыцін.*

**ПАЛУ́ШКА**, руская сярэбраная (15—17 ст.) і медная (18—19 ст.) манета вартасцю ў ¹/₄ *дзенгі* (да канца 1-й трэці 16 ст.), потым ¹/₄ капейкі. Выпускалі *дзенежныя двары* Ноўгарада і Пскова (да 1535 маса 0,19 г), з 16 ст. таксама Цвяры і Масквы (да 1535 маса 0,09 г). Чаканілі іх на расплюшчаных абрэзках дроту, таму манеты мелі няправільную авалападобную форму.

У пісьмовых крыніцах 15 ст. наз. «четверетца». З часоў праўлення кн. Івана IV [1533—47] П. становіцца чвэрцю капейкі 1535 (маса 0,17 г). Чаканілі іх названыя дзенежныя двары: на *аверсе* выява птушкі з распасцёртымі крыламі, на рэверсе — радковая легенда. Пазней П. выпускалі спарадычна, з 1613 — толькі Маскоўскі дзенежны двор. Міхаіл Фёдаравіч [1613—45] чаканіў П. (маса 0,12—0'18 г) з аверсам — цар на кані з кап'ём. Апошнія выпускі П. з дроту (маса 0,11 г) з птушкай на аверсе правёў Аляксей Міхайлавіч [1645—76]. Намінал **полушка** мелі манеты 1700—01 (маса 3,20 г), 1701—04 (2,65 г), 1704—12 (2, 13 і 2,05 г), 1710 (1,62 г), 1713—18 (2,05 г), 1718—22 (1,02 г), 1730—54 (4,10 г), 1766—79 (для Сібіры, 1,64 г), 1757—96, (2,56 г), 1796 (1,28 г), 1797—1810 (2,56 г), 1849—67 (1,28 г). Выпускалі П. Кадашаўскі манетны двор (1710), Набярэжны медны двор (1718—22), Екацярынбургскі (1766—73, 1775—76, 1786, 1789—90, 1794—1800, 1803—05, 1808, 1810, 1849—67), Калыванскі (1766—79, з наміналам **сибирская монета полушка**, 1783—95, 1797—99), Сузунскі (1804—05, 1807), Анінскі (1797—98), Пецярбургскі (1849) манетныя двары (адзнакі двароў гл. ў арт. *Манетныя двары Расійскай дзяржавы*), *Варшаўскі манетны двор* (1850—53, 1855). Без адзнак манетнага двара былі П. 1700—16, 1718—22, 1730—31, 1734—41, 1743, 1751, 1754, 1757—59, 1789, 1793, 1795. Выпушчаная ў 1839—1916 *чвэрць капейкі* адпавядала па вартасці П.



**Палушка.** Расія: 1. Іван IV [1533—47]; 2. Міхаіл Фёдаравіч [1613—45]; 3. Аляксей Міхайлавіч [1645—76]; 4. Пётр I, 1700; 5. Іаан Антонавіч, 1741; 6. Лізавета Пятроўна, 1757; 7—8. Кацярына II, 1796, 1777; 9. Мікалай I, 1849; 10. Аляксандр II, 1857.

*Літ.*: 1558, 1615, 1620. *В. Н. Рабцэвіч.*

**ПАЛЦІ́НА**, палціннік, манета вартасцю ў ¹/₂ рубля. 1) У Стараж. Русі палавінны абрубак грыўні — рубля (гл. *Зліткі плацежныя*). Упамінаецца ў пісьмовых крыніцах 13 ст. На Беларусі абарачаліся П. наўгародскага (12—15 ст.) і зах.-рус. (13—15 ст.) тыпаў. 2) Грашова-лікавая адзінка Расіі, якая вызначала суму ў 100 дзенег (гл. *Дзенга*, 15—1-я трэць 16 ст.) або пазней — 50 капеек. На Беларусі ў 1413—пач. 16 ст. П. адпавядала 50 *грошам пражскім*, у 16—18 ст.— 50 *грошам літоўскім* або 62,5 *грошам польскім*. 3) Медная манета царскай Расіі, выпушчаная Новым (Англійскім) дзенежным дваром у 1654 (маса 16—20 г). Намінал — **полтинник**. З абарачэння знятая ў 1662. У пісьмовых крыніцах часам называецца «медным яфімкам». 4) Сярэбраная манета Расіі 1701—06 (*залатніковая проба* ≈ 84, *лігатурная маса* ≈ 14 г), 1707 (проба ≈ 84 і 77, маса ≈ 14 г), 1710 (проба ≈ 77 і 72, маса ≈ 14 г), 1712 (проба ≈ 58, маса ≈ 14 г), 1718—29 (проба 70, маса 14,22 г), 1731—61 (проба 77, маса 12,93 г). 1762—96 (проба 72, маса 12 г), 1797 (проба 83 ¹/₃, маса 14,63 г), 1798—1859 (проба 83 ¹/₃, маса 10,37 г), 1860 (проба 72, маса 12 г), 1861—85 (проба 83 ¹/₃, маса 10,37 г). Намінал — **полтина**, у 1707 — **полтинникъ**. Акрамя наміналу ў *полі* манеты, у легендах *гурта* манет 1724, 1728, 1729 і часткова 1719—21, 1723, 1725—27 — **полтинникъ**. Без адзнак манетнага двара П. 1701—07, 1710, 1712, 1723—29, 1731—40. Выпускалі П. Кадашаўскі (1704, 1718—23), Красны (1718—20, 1741—47, 1749, 1762—63), Пецярбургскі (1726—27, 1738—45, 1747—56, 1758—69, 1771—79, 1785, 1787, 1791, 1794—1805, 1809—85) манетныя двары, *Варшаўскі манетны двор* (1842—47). 5) Залатая манета Расійскай імперыі 1756 (проба 88, маса 0,80 г) і 1777—78 (маса V 14,63 г), 1798—1859 (проба 83¹/₃, маса 0,65 г), прызначаная для дварцовага карыстання. Намінал — **полтина**, без адзнак манетнага двара. 6) Медная *плата* Расійскай імперыі (маса 819,03 г). Намінал — **полтина**. Вы-

пускаў Екацярынбургскі манетны двор у 1726. 7) Сярэбраная манета СССР. Намінал — **один полтинник.** Выпускалі *манетныя двары СССР.* Гл. таксама ў арт. *Манеты СССР.* 8) Сучасная прастамоўная назва манеты вартасцю ў *пяцьдзесят капеек.*

*Літ.:* 1615, 1620. *М. І. Смірноў.*

**ПАЛЫ́КАВІЧЫ 1-я,** група археал. помнікаў жал. веку каля в. Палыкавічы 1-я Магілёўскага р-на.

Гарадзішча-1. За 200 м на Пд ад вёскі, на правым беразе Дняпра, за 300 м ад яго рэчышча, на мысе, утвораным 2 ярамі, ва ўрочышчы Барсукова горка, выш. над поймай 12—14 м. Раней на гэтым месцы было селішча. Гарадзішча мае складаную сістэму ўмацаванняў, 2 яго пляцоўкі раздзелены валамі. Агульная даўж. пляцовак 108 м (у т. л. паўд. 55 м), шыр. 31—52 м. З боку поля ўмацавана валам выш. да 5,5 м і ровам, з трох бакоў паўн. пляцоўкі прасочваецца вал выш. да 1,5 м. У мысавай частцы таксама ёсць дадатковы аплыўшы вал. Гарадзішча пашкоджана ямамі і траншэямі перыяду Вял. Айчыннай вайны. Даследаваў у 1937 В. Р. Тарасенка, абследаваў ў 1987 А. А. Седзін. Уздоўж усх. і зах. бакоў пляцоўкі Тарасенка выявіў рэшткі жытлаў слупавой канструкцыі, 7 агнішчаў, складзеных з камянёў, іх дыям. 1—1,5 м і 3 м. Культурны пласт 1,3—2,2 м.

Знойдзены фрагменты ляпнога, у т. л. глянцаванага, керамічнага посуду, жал.



**Палціна.** Расія: 1. Аляксей Міхайлавіч, 1654; 2—4. Пётр I, 1704, 1719, 1725; 5—6. Кацярына I, 1726, 1727; 7. Пётр II. 1727; 8—9. Лізавета Пятроўна, 1756 (серабро), 1756 (золата).

наканечнікі стрэл (трохлопасцевы тронкавы і лістападобны), лязо сякеры, рыбалоўны кручок, нажы з прамой спінкай, касцяныя шылы і іголкі, прасліцы, камень ад зерняцёркі, тачыльныя брускі.

Помнік датуецца 1-м тысячагоддзем да н. э.— 3-й чвэрцю 1-га тысячагоддзя н. э.

Гарадзішча-2. За 1,5 км на ПдУ ад вёскі, на правым беразе Дняпра, за 300 м ад яго рэчышча, на мысе, утвораным 2 ярамі, выш. над тальвегам яра 22 м. Пляцоўка авальная, памерам 32×23 см. З боку поля гарадзішча ўмацавана валам выш. 2,5—3 м, шыр. 15—18 м і ровам. У яго мысавай частцы прасочваецца аплыўшы вал. Пляцоўка моцна пашкоджана траншэямі і ямай ад бліндажа перыяду Вял. Айчыннай вайны, а таксама ямамі скарбашукальнікаў. Гарадзішча абследавалі ў 1936 Тарасенка, у 1987 Седзін. У культурным пласце знойдзены фрагменты ляпнога керамічнага посуду, пакрытага штрыхоўкай, расколатыя і абпаленыя камяні. Помнік датуецца раннім жал. векам.

*Літ.:* 1156. *А. А. Седзін.*



**ПАЛЬШТА́Б,** устарэлая назва розных тыпаў плоскіх металічных сякер бронзавага веку.

**ПАЛЯВА́ННЕ,** здабыча дзікіх звяроў і птушак з мэтай іх выкарыстання ў гаспадарцы, для забеспячэння свайго існавання; адна з самых стараж. форм гасп. дзейнасці чалавека. У каменным веку П.— асн. занятак першабытнага чалавека, які забяспечваў яго ежай (мяса, тлушч),



**Палціна.** Расія: 10. Пётр III, 1762; 11—12. Кацярына II, 1777 (золата), 1779; 13. Павел I, 1798; 14. Аляксандр I, 1809; 15—16. Мікалай I, 1827, 1833; 17. Аляксандр II, 1867; 18. Аляксандр III, 1882. СССР: 19. 1924.

адзеннем (скура, воўна, футра, пух), сыравінай для вытворчасці прылад працы, зброі, амулетаў, чурынгаў, упрыгожанняў (іклы, біўні, косці, сухажыллі, скура), буд. матэрыялам і палівам (чарапы, косці, рогі, скура, тлушч). Узровень развіцця вытворчасці і віды паляўнічай зброі (сродкі паляўніцтва) вызначалі аб'екты і спосабы П. і ўдасканальваліся ад эпохі да эпохі. Разам з тым яны захоўвалі мясцовыя, іншы раз этнавызначальныя асаблівасці. У самым пачатку гісторыі чалавецтва людзі палявалі на жывёлін, якія траплялія, пры дапамозе выпадкова знойдзеных палак і камянёў. У сярэднім палеаліце (эпоха *мусцье*) выкарыстоўваліся не толькі рубілы і востраканечнікі, але і коп'і з масіўнымі наканечнікамі, людзі маглі здабываць мамантаў, шарсцістых насарогаў, пячорных мядзведзяў.

У верхнім палеаліце з крамянёвых пласцін выраблялі разнастайныя наканечнікі дроцікаў, пазней і стрэл, выкарыстоўвалі кап'якідальнікі, рагаціны, дубіны. У канцы палеаліту на паўн. аленя палявалі, відаць, плямёны гамбургскай, мадленскай, арэнсбургскай і свідэрскай культур. З рагоў аленяў выраблялі наканечнікі гарпуноў або коп'яў, якія ўздоўж аднаго ці абодвух краёў мелі зубцы і патоўшчаныя асновы (насад). Паводле наскальных малюнкаў і выяў на сценах пячор, у час П. на дзікіх жывёл выкарыстоўвалі: з а г о н ы да абрываў, яроў з стромкімі схіламі і ў дрыгву; а б л а в ы з нагонкай; п а д ы х о д а б о с к р а д в а н н е, часам з маскіроўкай пад скурай жывёлы; л о ў ч ы я ямы. Пасля апошняга зледзянення і ўсталявання сучаснай геалагічнай эпохі — галацэну — узнавіліся лясы і значна ўзбагаціўся жывёльны свет. Мамант і шарсцісты насарог зніклі ў выніку паляўнічай дзейнасці чалавека, а статкі паўн. аленяў адышлі далёка на Пн. Быў прыручаны сабака, вынайдзены і пашырыліся лук і стрэлы, магчыма, прашча, больш разнастайнымі сталі спосабы П. Акрамя калектыўных, пачалі выкарыстоўваць групавыя і індывідуальныя віды П., заснаваныя на добрым веданні нораву, звычкі і павадзін звяроў навакольных лясоў. Прадукцыйнай было П. метадам аблавы з нагонкай жывёл на лінію паляўнічых, ажыццяўляліся трапленне — выяўленне здабычы па следу, падпуск — калі звера забівалі з засады. У новых экалагічных умовах развіліся неактыўныя спосабы П., пры якіх выкарыстоўваліся самалоўныя прылады і прыстасаванні: лоўчыя ямы, пасткі, петлі, самастрэлы, сеткі, сілы. Магчыма, некаторых звяроў і птушак (ваўка, лася, качку) прываблівалі. Асноўнымі аб'ектамі П. былі высакародны алень, бабёр, дзік, зубр, касуля, лань, лось, мядзведзь, тур, тарпан, дробныя пушныя звяры і інш.

Рэшткі плейстацэнавай фауны знойдзены на тэр. Беларусі амаль у 300 месцах. Стаянкі стараж. краманьёнцаў — паляўнічых на мамантаў выяўлены каля вёсак *Бердыж* і *Юравічы*. На першай знойдзены 1800 касцей мамантаў і рэшткі жывёл 19 відаў (паўн. алень, шарсцісты насарог, зубр, конь, мядзведзь, пясец, воўк, заяц і інш.), на другой — косці 15—20 мамантаў, пераважна маладога ўзросту, першабытнага быка, дзікага каня і пясца. Па слядах (трасах) ад прылад, якія засталіся на касцях, і па адсутнасці пэўных касцей шкілета можна разважаць аб выкарыстанні здабычы і ўласцівасцях прылад апрацоўкі. Узрост асобін некаторых відаў жывёлін дазваляе меркаваць пра сезоннасць і пару года існавання стаянкі. Дынаміка развіцця паляўнічага промысла на Пд Беларусі добра прасочваецца на касцявых рэштках паселішча *Камень*. У раннім неаліце палявалі пераважна на дзіка, лася і высакароднага аленя, таксама тарпана, бабра, зубра або тура, мядзведзя і касулю. У познім неаліце сталі больш здабываць дзіка і лася, меней — тарпана, бабра, аленя, палявалі таксама на дробнага звера і вадаплаўную птушку. На тэр. паўн. Беларусі, як сведчаць фауністычныя рэшткі са стаянак *Асавец* і *Галоўск*, палявалі пераважна на дзіка, мядзведзя, лася. Некаторыя прылады П., вынайдзеныя ў неаліце (ступа, калодка, магчыма, торгала, ашчэп, ваўкаўня), дайшлі да нашых дзён. Павелічэнне шчыльнасці насельніцтва (стаянкі неаліту на тэр. Беларусі выяўлены ў вял. колькасці па далінах усіх буйных рэк), удасканаленне прылад і спосабаў П. аказвалі ўсё большае ўздзеянне на прыроду. Пазней у сувязі з пераходам да вытворнай гаспадаркі ў бронзавым веку П. адышло на другі план, нягледзячы на ўдасканаленне зброі (каменныя баявыя сякеры, металічныя наканечнікі стрэл і коп'яў) і выкарыстанне верхавой язды. Аналіз касцявых рэштак з раскопак гарадзішчаў жал. веку Пн Беларусі (*Дворышча, Кастрыца, Кублічы, Новы Болецк, Урагава* і інш.) пацвярджае перавагу свойскай жывёлы над дзікай і поўную адсутнасць на гэтых помніках рэштак высакароднага аленя і касулі. Тут у 6 ст. да н. э.— 8 ст. н. э. найб. часта палявалі на буйных капытных (лася, зубра і інш.), шмат здабывалі баброў і лісіц, меней мядзведзяў, куніц і рысяў. Няма на паўн. гарадзішчах рэштак ваўка, выдры, ляснога тхара, барсука. У касцявых рэштках з раскопак гарадзішча *Чаплін*, што на Пд Беларусі, пераважаюць дзікія жывёлы (51 %), прычым больш за $^2/_3$ усіх асобін складаюць капытныя (высакародны алень, лось, касуля, зубр, дзік), шмат баброў. Рэшткі дзікіх жывёл на ўсіх даследаваных помніках сярэднявечча, акрамя Гродна (57 %) і Ваўкавыска (55 %), па колькасці ўступаюць рэшткам свойскіх жывёл, асабліва гэта характэрна для стараж. Полацка, Віцебска, Мінска (13—22 %). Амаль роўная колькасць свойскіх і дзікіх асобін выяўлена ў Лукомлі, Клецку, Давыд-Гарадку. Асноўным аб'ектам паляўнічага промыслу былі лось, зубр, высакародны алень, касуля, дзік, на якіх палявалі дзеля мяса і якія складалі больш за 75 % усёй паляўнічай здабычы, а таксама мядзведзь, воўк, выдра, бабёр і заяц. На Пд Беларусі П. ў насельніцтва гарадоў адыгрывала большую ролю, чым на Пн (Давыд-Гарадок 41 %, Клецк 46 %). Пінск — адзіны помнік, дзе выяўлены рэшткі тура (пласт 14—16 ст., апошняя асобіна была забіта ў 1627). Да 17 ст. асноўнай паляўнічай зброяй быў лук. Наканечнікі стрэл адрозніваліся разнастайнасцю форм: круглыя, авальныя, трохгранныя, двухрогія і двухшыпавыя, кілепадобныя з некалькімі шыпамі і інш., выраблялся з жалеза і косці і ўбіваліся ў тарэц стралы (тронкавыя) або надзяваліся на яе (утулкавыя). Для П. на птушак і футравых звяркоў выкарыстоўвалі касцяныя наканечнікі з тупым уплошчаным канцом, якія не псавалі футра. Для лоўлі куніц, собаляў, ваверак, гарнастаяў, выдраў, лісіц прымянялі самалоўныя прыстасаванні. У раннім сярэднявеччы быў удасканалены лук, а з 12 ст. пашырылася куша (арбалет) з кольбай, ложам і механічным напінаннем цецівы. У канцы 15—16 ст. спачатку знаць, потым сяляне палявалі пры дапамозе спец. стрэльбаў — пташын, што прыносіла вял. шкоду жывёльнаму свету і таму заканадаўча абмяжоўвалася. З 18 ст. вядомы пасткі (капканы). Удасканаленне паляўнічай зброі, удзел у П. сабак спецыялізаваных парод і сабачых зграй прывялі да знішчэння ў сярэдзіне 18 ст. тарпанаў, у пач. 19 ст.— высакародных аленяў, у 20 ст.— зуброў, звяліся собалі, расамахі, бабры, чорныя зайцы, пад пагрозай знішчэння апынуліся касулі, ласі, мядзведзі. У эканоміцы стараж. насельніцтва П. мела важнае значэнне, адыгрывала гал. ролю ў харчаванні і служыла задавальненню патрэб не толькі ў мясной ежы, але і ў адзенні, абутку, прадметах хатняга ўжытку, было буйной крыніцай менавых каштоўнасцей.

*Літ.:* 171, 197, 536, 919, 1265, 1372, 1374, 1376.

*У. Ф. Ісаенка, Н. П. Александровіч.*

**ПАЛЯВА́Я АРХЕАЛО́ГІЯ,** сукупнасць навук. метадаў вывучэння *археалагічных помнікаў* з мэтай атрымання дакладных *археалагічных крыніц*. П. а. рэгламентуе правілы, парадак ажыццяўлення археал. даследаванняў (гл. *Раскопкі археалагічныя*), якія праводзяцца непасрэдна на мясцовасці, «у полі», пад адкрытым небам, пад вадой, з выкарыстаннем аэрафотаздымкі

і інш. Гл. таксама арт. *Методыка археалагічных даследаванняў.*

*Літ.:* 4.

**ПАЛЯВА́Я ДАКУМЕНТА́ЦЫЯ АРХЕО́ЛАГА.** Уключае дакументацыю пісьмовую (*палявы дзённік археолага*, вопіс знаходак і фотакадраў) і графічную (чарцяжы, малюнкі), вопіс рэчавых індывідуальных (зброя, прылады працы, упрыгожанні і інш.) і масавых (кераміка, косці жывёл) знаходак. У вопісе фотакадраў адзначаюцца аб'ект і ўмовы здымак. Чарцяжы складаюцца на раскоп паселішча (фіксуецца кожны раскопачны пласт, маштаб 1:20), на раскоп могільніка (маштаб 1:10), планы жытлаў, гасп. ям, вогнішчаў (1:5, 1:2); асобна выкрэчваюцца профілі сцен раскопу, бровак і буд. ярусаў. Замалёўка фіксуе індывідуальныя знаходкі ў палявым дзённіку археолага ці асобна. П. д. а. з'яўляецца асновай для напісання *справаздачы пра археалагічнае даследаванне.*

*Літ.:* 4. *Л. У. Калядзінскі.*

**ПАЛЯВЫ́ ДЗЁННІК АРХЕО́ЛАГА,** асноўная і найгалоўнейшая частка *палявой дакументацыі археолага*, у якой фіксуецца інфармацыя пра помнік і работы на ім. Звычайна для П. дз. а. выкарыстоўваюць сшытак ці блакнот. На яго тытульным лісце пазначаецца назва экспедыцыі і адрас установы, якая праводзіць работы, прозвішча даследчыка. Запіс вядзецца на адным баку ліста. Другі бок пакідаецца пад замалёўкі найб. каштоўных знаходак, сітуацыйныя планы або для ўнясення змен ці паправак у тэкст. У дзённіку змяшчаецца спіс удзельнікаў археал. атрада і размеркаванне працы паміж імі. Дзённік вядзе адзін чалавек, запісы ў ім робяцца штодзённа на працягу рабочага дня і не пазней як у канцы яго. Вядзецца пры археал. разведцы (маршрутны) і ў час раскопак (стацыянарны). У маршрутным дзённіку адзначаецца маршрут абследавання помнікаў, указваецца від помніка (гарадзішча, селішча, курган), даецца прывязка помніка да найбліжэйшых населеных пунктаў (з указаннем сельсавета і раёна), рэчкі, возера ці ўрочышча, мясц. назва помніка. Апісваюцца знешні выгляд помніка, стан яго захаванасці, памеры, плошча. Малюецца сітуацыйны план помніка. Стацыянарны дзённік вядзецца толькі на адзін помнік. Бываюць дзённікі на раскоп, участак раскопу, на курган. Дзённік на ўчастак раскопу падрабязна фіксуе ход работ, дае характарыстыку культурнага пласта і ўсіх яго змен у час раскопак на ўчастку. Абавязкова адзначаецца нумар пласта, яго глыбіня, састаў, часткі ўскрытых збудаванняў, знаходкі. Вядзецца навук. супрацоўнікам атрада. Дзённік раскопу ўлічвае даныя дзённікаў участкаў. У ім даецца поўнае апісанне распрацаванага за дзень культурнага пласта на ўсёй плошчы раскопу, усіх ускрытых збудаванняў, колькасная характарыстыка масавых знаходак, адзначаюцца індывідуальныя знаходкі, апісваюцца профілі сценак і бровак раскопу. Даецца папярэдняе тлумачэнне аб паходжанні і датаванні культурнага пласта, праслоек, збудаванняў і знаходак. Вядзецца начальнікам раскопу, атрада ці экспедыцыі. У дзённіку на курган абавязкова адзначаюцца пахавальны абрад, састаў насыпу кургана, знаходкі. Па заканчэнні палявых работ на падставе запісаў у дзённіку і інш. палявой дакументацыі складаецца *справаздача пра археалагічнае даследаванне.*

*Літ.:* 4. *Л. У. Калядзінскі.*



Гаршкі **паморскай культуры** (могільнік Трасцяніца Камянецкага р-на).

**ПАМО́РСКАЯ КУЛЬТУ́РА,** усходнепаморская культура, вейхяроўска - краташынская культура, культура падклёшавых пахаванняў, археал. культура плямён, якія ў 7—2 ст. да н. э. насялялі тэр. Польшчы, ПдЗ Беларусі і ПнУ Украіны. Падзяляецца на 3 этапы: 7 — сярэдзіна 6 ст. да н. э.; сярэдзіна 6—4 ст. да н. э.; 4—2 ст. да н. э. На тэр. Беларусі выяўлены помнікі толькі 3-га этапу.

На Беларусі селішчы і бескурганныя могільнікі П. к. даследавалі ў 1950—60-я г. Зафіксаваны селішчы каля в. Хмелі і *Кусічы* (Агароднікі) Камянецкага р-на, *Гарадзішча* Пінскага р-на. Насельніцтва П. к. займалася земляробствам, жывёлагадоўляй, рыбалоўствам, паляваннем, вырабляла жал. прылады працы (нажы, сякеры-кельты, іголкі, долаты), бронзавыя сярпы, каменныя зерняцёркі, жал. і бронзавыя ўпрыгожанні (шпількі, фібулы, бранзалеты, грыўні, пярсцёнкі, падвескі), шкляныя і бурштынавыя пацеркі, будавала паўзямлянкі і наземныя жытлы слупавой канструкцыі. У Кусічах выяўлены рэшткі наземнай пабудовы, сцены якой у аснове абкладзены камянямі. Ацяплялася яна 2 агнішчамі, размешчанымі ў глыбокіх круглых ямах памерам 0,5 м. Грунтавыя пахаванні выяўлены каля вёсак Ратайчыцы, Трасцяніца Камянецкага, Скорбічы *(Дружба)* Брэсцкага, Адзамічы Столінскага р-наў, каля чыг. ст. Драгічын, каля Пінска (Альбрэхтава) і інш. Пахавальны абрад — *трупаспаленне.* На Беларусі выяўлены 4 тыпы пахаванняў: абкладзеныя камянямі, падклёшавыя (урна накрыта вял. гаршком — «клёшам»), урнавыя і ямныя. Асн. маса знаходак у пахаваннях і на паселішчах П. к.— ляпны посуд, прадстаўлены глянцаванымі збанамі, міскамі, вазападобнымі пасудзінамі, накрыўкамі, падстаўкамі, таўстасценнымі гаршкамі; з упрыгожанняў — жал. і бронзавыя фібулы раннелатэнскай схемы, кольца, каменныя і шкляныя пацеркі. Некаторыя даследчыкі лічаць, што П. к. належала раннім славянам.

*Літ.:* 828. *В. С. Вяргей.*

**ПА́НІЧАВА** Людміла Рыгораўна (н. 15.1.1953, Мінск), беларускі археолаг. Канд. гіст. навук (1980), дацэнт (1989). Скончыла БДУ (1976). Працавала ў Ін-це гісторыі АН БССР, з 1984 выкладчык БДУ і Мінскага пед. ін-та. Стварыла тыпалагічную і храналагічную класіфікацыю бел. кафлі 14—17 ст.

*Тв.:* Дэкаратыўная кераміка Копысі // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1974. № 3; Навагрудская кафля // Там жа. 1980. № 2; Изразцы и изразцовые печи позднесредневекового Полоцка // Сов. археология. 1981. № 3; Хронология белорусских изразцов XIV—XVII вв. // Краткие сообщения Ин-та археологии АН СССР. М., 1984. Вып. 179; Белорусские изразцы XIV—XVII вв. // Труды V Междунар. конгресса славянской археологии. М., 1987. Т. 3.

**ПА́НЦЫР** (лац. pantex жывот), засцерагальны даспех стараж. і сярэдневяковага воіна для абароны тулава. Выраблялі яго пераважна з металічных кольцаў ці пласцін таўшч. 0,5—2 мм разнастайнай формы (квадратных, паўкруглых, шырокіх прамавугольных, вузкіх прадаўгаватых), якія нашываліся на скураны або тканы кафтан. Да П. належалі таксама ўсе тыпы кальчуг, выканаых кальчужнай пляцёнкай, камбінацыяй кальчужнага палатна са стальнымі пласцінамі.

П. вынайдзены асірыйцамі, якія яшчэ ў бронзавым веку рабілі доўгае да шчыкалатак адзенне з кароткімі рукавамі і нашытымі па ўсёй паверхні бронзавымі лускамі. Такімі П. карысталіся ў стараж. Егіпце, Грэцыі і сярэдневя-

ковай Еўропе. На Беларусі лускаватыя П. паявіліся ў эпоху Кіеўскай Русі і называліся «бронямі». Тагачасныя «броні» рабілі з прамавугольных выпуклых пласцінак з адтулінамі па краях. Праз адтуліны працягваліся скураныя рамяні, якімі пласцінкі шчыльна змацоўваліся паміж сабой. У 11 ст. паявілася лускаватая «браня». Яе пласцінкі насоўвалі адна на адну, прымацоўвалі да зробленай з тканіны або скуранай асновы з аднаго боку і фіксавалі ў цэнтры. Даўжыня такога П. даходзіла да бядра. Падол і рукавы часам рабілі з больш доўгіх пласцін. Лускаваты П. у адрозненне ад пласцiністага меў большую эластычнасць. Апрануты ў яго воін мог вольна рухацца, што было асабліва важна для вершніка. Зробленыя з пласцін «броні» называліся «дашчатымі», паколькі іх пласцінкі нагадвалі выпуклыя дошчачкі. У 14 ст. тэрмін «браня» замяняецца словам «даспех». У 15 ст. ўзнікае новы тэрмін для абазначэння зробленай з пласцінак «брані» — «панцыр». Старажытныя П. часта не мелі асновы. Пласціны звязвалі паміж сабой рамянямі ці дротам. Усе яны былі выпуклыя і насоўваліся адна на адну, што ўзмацняла засцерагальныя ўласцівасці даспеха. Такі П. апраналі на тоўстую падшываную куртку ці нават кальчугу. На тэр. Беларусі П. упершыню пачаў выкарыстоўвацца ў 8—10 ст. на раннеслав. паселішчах. Тры жал. пласцінкі ад засцерагальнага П. знойдзены на гарадзішчы *Хатомель*. Найб. раннія фрагменты П. ў гарадах (апошняя чвэрць 11 ст.) выяўлены ў Мінску. 4 з іх мелі выгляд жал. прамавугольных пласцін з адтулінамі для мацавання на мяккай аснове. Памеры пласцін каля 8 × 2 см, 8,5 × 4 см. Адна пласціна (10 × 5 см) з пласта 13 ст., відаць, ад нарукаўніка. У Навагрудку знойдзена жал. панцырная пласціна 13 ст. памерам 15 × 3 см. Сярэдзінай 13 ст. датуюцца 14 пласцін ад «броні дашчатай» з Полацка. 13 пласцін-загатовак (кожная памерам 7,8 × 5,2 см) яшчэ не мелі адтулін для мацавання. Толькі адна была цалкам закончана, выгнута і мела адтуліны. Унікальнай з'яўляецца знаходка на тэр. вакольнага горада ў Гомелі А. А. Макушнікавым і А. М. Пісарэнкам разбуранай майстэрні 1-й пал. 13 ст., дзе выраблялiся «броні дашчатыя». У майстэрні выяўлена каля 1,5 тыс. жалезных пласцін, якія тут нарыхтоўваліся і апрацоўваліся. 4 прамавугольныя пласцінкі ад П. 15 ст. знойдзены пры раскопках Гродзенскага замка. 2 з іх мелі памеры 4 × × 3,5 см, астатнія — 7,8 × 3,5 см; таўшч. кожнай пласцінкі 2—3 мм. Фрагменты пласціністых П. зафіксаваны ў час даследавання Бярэсця і Слуцка. Такія П. выкарыстоўваліся да канца 15 ст. Аднак ужо ў 14 ст. пачалі вырабляць П., у якіх камбінаваліся кольчаты і пласціністы даспехі. Яны маглі быць пласціністыя або кольчатыя на грудзях і спіне і лускаватыя на падоле. Падобны П. знойдзены ў балоце каля Нясвіжа. Часам рукавіцы і падол выраблялі з доўгіх языкападобных пласцін. Узрастанне ролі конніцы з яе тараннымі кап'явымі ўдарамі, з'яўленне і ўдасканаленне агнястрэльнай зброі прывялі да дадатковага засцерагання грудзей воінаў буйнымі бляхамі, якія апраналі наверх даспехаў. У 16 ст. яны называліся «зярцаламі», паколькі шліфаваліся і начышчаліся да бляску, часам серабрыліся ці залаціліся. 4 «зярцалы» згадваюцца ў 1536 у інвентары Магільнянскага замка, дзе было 25 кольчатых П. У адрозненне ад звычайнай кальчугі «кашулі драцянай» у іх замест драцяных круглых у сячэнні кольцаў у панцырным пляценні выкарыстоўваліся толькі плоскія, часта спрэс кляпаныя «на гвозд». Плоскія кольцы ў 1,5—2 разы (без павелічэння вагі) расшырылі жал. поле, якое прыкрывала воіна. Важыў такі П. 5—7 кг.

З удасканаленнем агнястрэльнай зброі П. паступова страцілі сваё значэнне і ў 18 ст. зніклі зусім.

*Літ.:* 271, 384, 385, 526, 1347.

*М. А. Ткачоў.*

**ПАНЯМО́НЬ,** стаянкі эпохі неаліту і бронзавага веку каля в. Панямонь Навагрудскага р-на.

С т а я н к а-1. За 500 м на Пд ад вёскі, ва ўрочышчы Трахімавы Кусты, на правым беразе р. Сэрвач. Выявіў у 1951 А. Р. Мітрафанаў, даследавала 184 м² у 1963 І. М. Цюрына. Культурны пласт да 0,5 м. Знойдзены шматлікі крамянёвы інвентар і фрагменты слабаарнаментаванай керамікі. Помнік датуецца 4-м і 2-м тысячагоддзямі да н. э.

С т а я н к а-2. За 600 м на ПдЗ ад вёскі, ва ўрочышчы Бабінка, на левым беразе р. Сэрвач. Выявіў у 1951 Мітрафанаў, даследаваў 68 м² у 1965 М. М. Чарняўскі. Выяўлены матэрыял пераважна ранняга і позняга этапу нёманскай культуры, ёсць знаходкі бронзавага веку.

*Літ.:* 1289. *М. М. Чарняўскі.*

**ПАРАЛЕЛІ́ЗМ** у г р а ш о в ы м а б а р а ч э н н і, адначасовае выкарыстанне з роўнымі правамі 2 або некалькіх грашовых металаў у якасці маштабу цэн без дзярж. рэгламентацыі. Пры П. залатыя і сярэбраныя манеты прымаюцца адпаведна рыначнаму кошту золата і серабра. У 16 ст., напр., залатыя манеты ўвайшлі ў грашовае абарачэнне ВКЛ, якое да гэтага забяспечвалася толькі сярэбранымі манетамі. Часам кваліфікуецца як адна з форм *біметалізму*.

**ПАРАЎНА́ЛЬНА - ГІСТАРЫ́ЧНЫ МЕ́ТАД,** адзін з асн. метадаў гіст. і археал. даследавання шляхам параўнання фактаў, выяўлення ў іх падобнага і адметнага з улікам канкрэтна-гіст. умоў. Аб'ектамі параўнання з'яўляюцца гіст. факты і крыніцы, узроўні развіцця, гаспадарча-культурныя тыпы, этнічныя прыкметы і інш. Яны разглядаюцца як элементы, фактары гіст. працэсу ў структурах, сістэмах, узаемасувязях. Супастаўляюцца факты з культурна-гіст. развіцця розных этнасаў, якія знаходзяцца на аднолькавай ступені сацыяльна-эканам. фармацыі; гіст. з'явы, што адбываліся ў насельніцтва аднаго рэгіёна, пэўнай этнічнай еднасці пры пераходзе ад адной да іншай стадыі развіцця, эпохі. П.-г. м. выкарыстоўваецца ў адносінах да аднародных, аднастайных і аднапарадкавых аб'ектаў ці з'яў з улікам характэрных якасных і колькасных паказчыкаў. Адначасова ацэньваецца іх значэнне, вылучаюцца істотныя фактары, асн. тыпы, найб. распаўсюджаныя з'явы, адкідаецца ўсё выпадковае і праводзіцца *класіфікацыя*. П.-г. м. у пэўнай ступені кампенсуе немагчымасць праверыць вывады на практыцы, паставіць дослед, паколькі гіст. працэс, як вядома, незваротны. Выяўленне аднолькавых гіст. фактаў у другіх этнасаў на той жа ступені развіцця (нават пры існаванні плямён у інш. час) павышае верагоднасць вывадаў, дазваляе адсеяць выпадковыя і скажоныя факты, вызначыць агульную лінію развіцця. У археалогіі П.-г. м. выкарыстоўваецца для выяўлення тыповага і тыпаў (гл. *Тыпалогія*), гіст. з'яў, фактаў і крыніц, вызначэння падабенства і аналогій, адноснай і абсалютнай храналогіі і інш. У археалогіі дапаможную ролю ў адносінах да П.-г. м. адыгрывае *параўнальна-тыпалагічны метад*.

*Літ.:* 368. *У. Ф. Ісаенка.*

**ПАРАЎНА́ЛЬНА - ТЫПАЛАГІ́ЧНЫ МЕ́ТАД** у а р х е а л о г і і, асноўны метад параўнання рэчаў, жытлаў, пахаванняў, комплексаў, культур з мэтай вызначэння ступені іх падабенства, пераймальнасці, характару існуючых паміж імі сувязей. Распрацаваны ў 19 ст. французскімі і шведскімі археолагамі (Г. дэ Мартылье, А. Мантэліус, Г. Гільдэбрант). Даследчыкі зыходзілі з эвалюцыі рэчаў і традыцый, іх натуральнай *мадыфікацыі*. Паводле П.-т. м. вылучаюць тыпы — сукупнасць рэчаў, аднолькавых паводле формы (марфалагічныя прыкметы), матэрыялу і апрацоўкі (тэхналагічныя прыкметы), прызначэння (вытворчыя і інш. функцыі), або тыпы інш. *археалагічных помнікаў*. Тыпы параўноўваюць паміж сабой для выяўлення прататыпу і размяшчэння іх у парадку паступовага ўзнікнення, эвалюцыі ад гэтага прататыпу да больш позніх форм. Складаюцца храналагічна-тыпалагічныя рады рэчаў па ўзрастанню адных прыкмет і затуханню другіх. Некаторыя рэчы ў такіх радах датаваныя. Гэта дае магчымасць больш дакладна вызначыць час існавання рэчаў прамежкавага тыпу, а таксама комплексаў і культур, куды гэтыя рэчы ўваходзяць. Больш-менш падрабязна распрацаваны храналагічна-тыпалагічныя рады для наканечнікаў стрэл з крамянёвых пласцін, каменных сякер, бронзавых кінжалаў, мячоў, фібул ранняга жал. веку, амфар, сярэдневяковых пацерак, кафлі, курганных пахаванняў і інш. Побач

з гэтымі радамі вызначаюцца вытворча-тыпалагічныя рады, якія даюць уяўленне пра вытворчы працэс ад загатоўкі да закончанага вырабу, вынікі ажыццяўлення шэрагу вытворчых аперацый, паслядоўнасць фармавання тыповай рэчы. Складанне вытворча-тыпалагічнага рада тоесна сучаснаму афармленню тэхналагічнай карткі, паводле якой рэч вырабляецца. П.-т. м. ляжыць у аснове *тыпалогіі*.

*Літ.:* 3, 749. *У. Ф. Ісаенка.*

**ПАРТУГА́Л** (партуг. portuguer), 1) залатая манета Каралеўства Партугалія 1499—1557 (з перапынкамі) вартасцю ў 10 крузада (*лігатурная маса* 39,9 г). 2) Назва ў Рэчы Паспалітай 16—18 ст. айчынных і замежных залатых манет, вага якіх пераважала вагу *дуката*. Часта чаканіліся тут як *манета-данатыва* або *манета мемарыяльная* і ацэньваліся як інш. залатыя рэчы вагой дукатаў.

Вядомы П. ў 2 $^{1}/_{2}$, 5, 7, 10, 10 $^{1}/_{2}$, 62, 70, 80 злотых чырвоных. У Рэчы Паспалітай выпускалі П. (*метрычная проба* 967—986) з перапынкамі ў 2-й пал. 16—1-й пал. 18 ст. наміналам у 20, 10, 5, 4, 3, 2, 1 $^{1}/_{2}$ дуката (намінал на манетах не пазначаўся). Вядомы каронныя (Каралеўства Польскага) 20-дукатавыя П. 1614, 1617 Зыгмунта III Вазы. Першы 10-дукатавы П. 1562 ВКЛ выпусціў Жыгімонт II Аўгуст, вядомы таксама П. 1586 Стэфана Баторыя (Рыга), каронны 1588 Зыгмунта III; у 1592—1629 П. каронныя і ВКЛ выпускалі часта; вядомы каронныя П. 1635, 1636, 1639 і 1639 ВКЛ Уладзіслава IV; апошні 10-дукатавік 1661 выпусціў Ян II Казімір Ваза. У 1614 у Гданьску выпушчаны 8-дукатавік. 6-дукатавы каронны П. чаканены ў 1592. 5-дукатавыя П. ВКЛ і каронныя выраблялі ў 1596—1623 з перапынкамі, у 1614 чаканены ў Гданьску; у 1629 — у Торуні; выпускалі каронныя П. 1645, 1647, торунскія 1645 Уладзіслава IV, 1649—52 і 1649 у Гданьску Яна II Казіміра. Вядомы 4-дукатавыя П. каронныя 1617, 1641 у Гданьску, 1629 у Торуні. Выпускалі 3-дукатавыя П. 1612 каронныя, 1631 — торунскія, 1640—42 — гданьскія. У 2-й пал. 17 ст. пашырыліся 2-дукатавыя П. (першыя — каронныя 1610); рэгулярны выпуск адбываўся ў 1650—57, 1671 каронных і ў 1660—68, 1671 торунскіх П. Яна II Казіміра, у часы праўлення Яна III Сабескага (1674—96) і Міхаіла Карыбута (1669—73) — у Гданьску, Аўгуста II у 1710 у Каралеўстве Польскім і 1698, 1699 у Гданьску; у 1753—54 выпускаў 2-дукатавік Аўгуст III, але яго выцесніў *аўгустдор* і яго фракцыі. 1,5-дукатавы П. 1619 чаканены ў Гданьску пры Зыгмунце III. Апошнія П. Рэчы Паспалітай — каронныя 1794 3-дукатавы і 1,5-дукатавы Станіслава Аўгуста Панятоўскага. У дакументах 17 ст. ўжываюцца назвы «двайны П.» і «адзінкавы П.» (магчыма, назва ўласна дуката).

*Літ.:* 1669, 1676, 1755, 1756.

*І. І. Сінчук.*



**Партугал.** Партугалія: 1. Мануэл I [1495—1521]. Рэч Паспалітая: 2. Зыгмунт III Ваза, 1612. 3. Аўстрыя: 3. Маціяс [1612—19]. Расія: 4. Аляксей Міхайлавіч [1645—76].

**ПАРЭ́ЦКІ МАНЕ́ТНА-РЭ́ЧАВЫ СКАРБ.** Знойдзены каля в. Парэчча Глыбоцкага р-на ў 1960. **Рэчавая частка** складалася з 2 сярэбраных шыйных грыўняў (202,3 і 216,5 г, даўж. 570 і 575 мм згорнуты амаль у 2 віткі). Сярэднія часткі грыўняў круглыя ў сячэнні, без арнаменту, пераходзяць у адной грыўні ў 8-гранны прут з арнаментам (кружкі) на 4 гранях; у другой грыўні прут складанага сячэння — 5-гранны зверху і круглаваты знізу, грані арнаментаваны ромбамі з рэльефнай кропкай у цэнтры. Галоўкі, якія завяршаюць грыўні, прыўзняты, іх грані арнаментаваны кружкамі і трохвугольнікамі. Паходжанне грыўняў, відаць, паўночна-заходняе (верагодна, востраў Готланд). Тыпалагічна блізкія да грыўні з *Добрынскага манетна-рэчавага скарбу*. **Манетная частка** складалася з 45 куфіцкіх дырхемаў Арабскага халіфата, з іх 6 фрагментаваныя.

Дынастыя Абасідаў (42): ал-Мансур [754—775] — 4, ал-Махдзі (775—785) — 5, ар-Рашыд [786—809] — 15, ал-Амін [809—813] — 4, ал-Мамун [813—833] — 4, ал-Мутасім [833 — 842] — 3, ал-Васік [842—847] — 1, ал-Мутэвакіль [847—861] — 3, з нявызначаным імем халіфа — 3; манетныя двары Мадынат ас-Салам (21), Мадынат Самарканд (3), Самарканд (1), Мадынат Херат (1), Херат (2), аш-Шаш (2),

ал-Мухамедыя (2), Іфрыкія (1), ал-Басра (1), Мадынат Балх (1), Мадынат Джэй (1), Мадынат Шыраз (1), нявызначаны манетны двор (5). *Манеты фальшывыя* пад абасідскі дырхем (2) і *манета-перайманне* (1) абасідскаму дырхему.

Ухаваны ў сярэдзіне 850-х г. (не раней 854).

*Літ.:* 1575. *В. Н. Рабцэвіч.*

**ПАРЭ́ЦКІ МАНЕ́ТНЫ СКАРБ.** Знойдзены ў 1886 каля в. Парэчча Талачынскага р-на, на тэр. б. маёнтка Хамянтоўскага. Складаўся з 561 цэлай і фрагментаванай манеты: 289 куфіцкіх *дырхемаў* Арабскага халіфата (старэйшы 717—18, малодшы 1014—15), 270 дынарыяў дзяржаў Зах. Еўропы, 1 міліярысія Візантыі і 1 срэбраніка Русі.

Арабскі Халіфат. Дынастыя Умаядаў (2 экз.)— манетны двор Васіт і 1 нявызначаны. Дынастыя Абасідаў (11), манетны двор Мадынат ас-Салам (7) і нявызначаны (4). Эміры Саманіды (83) — манетныя двары Амоль (1), Балх (1), Бухара (2), Нісабу (3), Самарканд (12), аш-Шаш (6), нявызначаны (54). Эміры Буіды (10) — манетныя двары Амоль (1), Барканд (1), ал-Басра (1), Фес (2), нявызначаны (5). Эміры Ілекі (4) — манетны двор Бухара (1), нявызначаны (3). Эміры Зінайрыды (5) — манетны двор Амоль (1), нявызначаны (4). Эміры Мерваніды (11) — манетны двор Міафарэкін (1), нявызначаны (10). Эміры Акайліды (15) — манетныя двары Белед (1), Масул (4), нявызначаны (10). Эміры Хамданіды (4) — манетныя двары Мадынат ас-Салам (1), Масул (1), нявызначаныя (2). Нявызначаны 154 дырхемы, у т. л. 3 брактэаты. Англія. Этэльрэд II [979—1016] — 73 экз. Канут [1016—35] — 1. Германская імперыя. Льеж (1-я чвэрць 11 ст.) — 1. Кёльн, Атоны I, II, III [936—1002] — 58. З імёнамі Атона і Адэльгейды — 129. Гальберштат, епіскап Арнульф (996—1023) — 1. Дортмунд, Атон III [983—1002] — 1. Майнц, Генрых II [1002—24] — 1. Страсбург, Генрых II — 2. Аўгсбург, Генрых II — 1; епіскап Ліўтольф [987—996] — I. Нявызначаны манетны двор, Генрых II — I. Візантыя. Васіль II [976—1025] і Канстанцін VIII [1025—28], міліярысій (I). Русь. Уладзімір Святаславіч [980—1015] фрагмент (1/2) срэбраніка 3-га тыпу 44 дырхемы паступілі ў Гіст. музей у Маскве, 11 — у Магілёўскі музей, 32 дырхемы і срэбранік — у Эрмітаж. Большасць манет перададзена для пераплаўкі на Пецярбургскі манетны двор, лёс часткі манет невядомы.

Ухаваны каля 1035.

*Літ.:* 1257, 1540, 1569, 1600, 1619. *В. Н. Рабцэвіч.*

**ПАСА́Д,** прадграддзе, прадмесце, гандлёва-рамесніцкая частка феад. горада 10—18 ст., жыхары якой аб'ядноўваліся ў абшчыну з самакіраваннем. Назва П. узнікла прыкладна ў 13 ст. Умацаваная частка П.— *вакольны горад.* Звычайна размяшчаўся вакол *дзядзінца* або на нізкім беразе ракі (т. зв. «падол»). На П. жылі пераважна рамеснікі і купцы, існаваў торг. П. мелі ўсе гарады на Беларусі. П. некаторых буйных гарадоў Кіеўскай Русі складаліся з некалькіх раёнаў — канцоў. У Мінску існаваў Пятніцкі канец, які пазней называўся Татарскі канец, Татарскае прадмесце. У Полацку ў 16 ст. было 6 П., кожны з іх меў сваю назву (Запалоцкі, Экіманскі, Крыўцоў і інш.). Пасады і слабоды названы ў інвентары ў Віцебску. Значныя археал. даследаванні праводзіліся на *Віцебскім пасадзе,* Гомельскіх пасадах, *Полацкім Вялікім пасадзе,* Клецкім вакольным пасадзе і інш.

*Літ.:* 1179, 1181, 1345.



Шыйныя грыўні з **Парэцкага манетнарэчавага скарбу.**

**ПАСЕ́ЛІШЧА,** доўгачасовая (у адрозненне ад *стаянкі*) неўмацаванае (адкрытае) *насяленне* стараж. чалавека каменнага і бронзавага вякоў.

**ПАСТАЛЫ́,** гл. ў арт. *Абутак.*

**ПАСЯЛЕ́ННЕ,** месца пражывання стараж. чалавека; адзін з асн. відаў археал. помнікаў. У залежнасці ад часу і формы існавання, месцазнаходжання, працягласці пражывання чалавека П. падзяляюцца на 4 асн. групы: *стаянкі* і *паселішчы* каменнага і бронзавага вякоў, *гарадзішчы* і *селішчы* жал. веку, *гарады.* Устанаўліваецца па наяўнасці культурнага пласта, у якім захаваліся рэшткі матэрыяльнай культуры (сляды жылых і гасп. пабудоў, прылады працы, фрагменты керамічнага посуду, зброя, упрыгожанні, косці жывёл і інш.) і ўмацаванняў (для гарадзішчаў, гарадоў). *В. С. Вяргей.*

**ПАТРО́ЙНЫ,** адна з назваў манеты наміналам у *тры грошы* ў бел. пісьмовых крыніцах 1560—1690-х г.

**ПАТЭ́ЛЬНЯ,** кухонны посуд з гліны ці металу, прызначаны для прыгатавання смажанай стравы. Гліняныя П. вядомы з антычнасці. На тэр. Беларусі яны знойдзены пры раскопках на Чачэрскім гарадзішчы, селішчах *Чаплін* (дыям. 16,5 см, глыб. 2,7 см) і *Тайманава,* паселішчы на Менцы, *Віцебскага Верхняга замка* (дыям. 16 см, глыб. 5,8 см). Жалезныя П. 12—13 ст. выяўлены ў Віцебску (дыям. 18 см, глыб. 1,7 см), Лукомлі (дыям. 22 см, глыб. 3 см), Слуцку (паўсферычнай формы). Медная П. (таўшч. 2—3 мм, дыям. 32 см, глыб. 6,6—7 см, аб'ём 4,5 л) выяўлена на Віцебскім Верхнім замку. Да яе мацавалася жал. чапяла з полай ручкай. Аналагічная чапяла знойдзена пры раскопках Слуцкага дзядзінца. Гліняныя П. на трох ножках (дыям. 18—22, выш. ножак 3—5 см, даўж. ручкі 5, адтуліна для драўлянай чапялы 2 см), якія датуюцца



**Патэльня** канца 13 ст. з Віцебскага Верхняга замка.



Гліняная патэльня 14—15 ст. з Крэва.

15 ст., выяўлены ў *Гродзенскім Старым замку* і *Лідскім замку.* Да 16 ст. такія П. рабілі непаліваныя, з 17 ст. пакрывалі зялёнай палівай. У бел. пісьмовых крыніцах 15—16 ст. П. ўпамінаецца пад назвамі «скаврада», «сковрада». П. на ножках мела назву «рынкі».

*Літ.:* 206, 440, 728а, 902, 1346. *Л. У. Калядзінскі.*

**ПАЎГРО́Ш,** медная або білонная манета вартасцю ў палавіну *гроша.* На Беларусі абарачаліся *паўгрош літоўскі, паўгрош польскі, паўгрош свідніцкі.* Гл. таксама *Манеты Падзнёвай Прусіі.*

**ПАЎГРО́Ш ЛІТО́ЎСКІ,** білонная манета ВКЛ вартасцю ў 1/2 *гроша літоўскага.*

Аляксандр Ягелончык [1492—1506], Віленскі манетны двор (з 1494), недатаваныя (*лотавая проба* VI, *лігатурная маса* 1,27 г); на аверсе — герб ВКЛ («пагоня»), кругавая легенда (на лацінскай мове) — **mon · alexandri** (манета Аляксандра); на рэверсе — герб Каралеўства Польшча (аднагаловы арол), легенда — **magni · dyc · litvanie** (ВКЛ). Жыгімонт I Стары, *Віленскі манетны двор* (1509—29, проба VI, маса 1,29); на аверсе «пагоня», легенда — **moneta · sigismvndj** (манета Сігізмунда); на рэверсе — аднагаловы арол, легенда — **magni · dvcis · litvanie** (ВКЛ). Жыгімонт II Аўгуст, Віленскі манетны двор (1545—65), *Тыкоцінскі манетны двор* (1566, проба V ¹/₂, маса 1,20 г); на аверсе аднагаловы арол, легенда — **sigis · avg · rex · po · mag · dvx · L1** (Жыгімонт Аўгуст кароль польскі вял. кн. літоўскі); на рэверсе «пагоня», легенда — **moneta · magni · dvcat · litva** (манета ВКЛ). У апошняй чвэрці 16 ст. на У Беларусі называўся *пятаком*.

*Літ.:* 1671, 1735.



**Паўгрош літоўскі:** 1. Аляксандр Ягелончык, 1494—1506; 2. Жыгімонт I Стары, 1509; 3. Жыгімонт II Аўгуст, 1565.



**Паўгрош польскі:** 1. Уладзіслаў II Ягайла [1386—1434]; 2—3. Казімір IV Ягелончык, 1468—79, 1479—92; 4. Ян I Ольбрахт, 1499—1501; 5. Аляксандр Ягелончык [1501—06]; 6. Жыгімонт I Стары, 1508; 7. Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, 1766.

**ПАЎГРОШ ПОЛЬСКІ** (каронны), білонная (15—16 ст.) і медная (13 ст.) манета вартасцю ў ¹/₂ *гроша польскага*. Выпускалі білонны П. п. (*лотавая проба* VI), Кракаўскі, медны — Кракаўскі і Варшаўскі манетныя двары.

Казімір IV Ягелончык [1447—92], недатаваныя; на *аверсе* — герб Каралеўства Польшча (аднагаловы арол), кругавая *легенда* (на лацінскай мове) — **moneta · kasimiri** (манета Казіміра); на *рэверсе* — каралеўская карона, легенда — **regis · polonie** (Каралеўства Польшчы); на чаканцы 1456—68 (*лігатурная маса* 1,58 г) — пад каронай *ініцыялы службовых асоб манетных двароў каралеўства Польшчы* — ТМ або МТ; на чаканцы 1468—79 (маса 1,30 г) пад каронай — МК або КМ; на чаканцы 1479—92 (маса 0,92 г) пад каронай — пяціпялёсткавая разетка (герб «Роза Порай» *падскарбія* кароннага П. Куразвенцкага). Ян I Ольбрахт [1492—1501], недатаваныя; на аверсе — дзярж. герб, легенда — **moneta · alberti** (манета Ольбрахта); на рэверсе — карона, легенда — **regis polonie** (Каралеўства Польшча); на чаканцы 1492—99 (маса 0,96 г) пад каронай — пяціпялёсткавая разетка; на чаканцы 1499—1501 (маса 1,03 г) пад каронай — кольца ў выглядзе здвоенай канцэнтрычнай акружнасці. Аляксандр Ягелончык [1501—06], недатаваныя; чаканка з 1502 (маса 1,00 г); на аверсе — герб Каралеўства Польшча, легенда — **alexander · dei · G · rex** (Аляксандр божай міласцю кароль); на рэверсе — карона, легенда — **moneta · regis · polonie** (манета Каралеўства Польшча). Жыгімонт I Стары, чаканка 1507—11 (маса 1,03 г); на аверсе — герб Каралеўства Польшча, легенда — **moneta · sigismvndi** (манета Сігізмунда); на рэверсе — карона, легенда — **regis · polonie.** Станіслаў Аўгуст Панятоўскі. Кракаўскі манетны двор (1765—68, маса 1,95 г); на аверсе — увянчаная каралеўскай каронай манаграма **SAR** (**Stanislaus Augustus Rex** — Станіслаў Аўгуст кароль) на рэверсе — радковая легенда **¹/₂ grossvs · reg · pol** (¹/₂ гроша Каралеўства Польшча), пад ёю — ініцыял G; вядома недатаваная (магчыма, 1765) і без G манета. Варшаўскі манетны двор — 1775—77, 1780—82, 1792 (маса, аверс і рэверс адпаведныя кракаўскай чаканцы, але на П. п. 1775—77, 1780—82 ініцыял ЕВ, 1792— MN).

*Літ.:* 1671, 1682, 1735.

*В. Н. Рабцэвіч.*

**ПАЎГРОШ СВІДНІЦКІ,** білонная манета, чаканеная ў сілезскім г. Свідніца ў 1517—27 ад імя караля Венгрыі і Чэхіі Людовіка (*лотавая проба* ≈V, *лігатурная маса* ≈0,93 г). На аверсе — аднагаловы арол, кругавая легенда (на лацінскай мове) — **lydovicys r**[ex] **vn**[garie] **et bo**[hemie] (Людовік кароль Венгрыі і Багеміі); на рэверсе — карона, кругавая легенда — **civitas**

**swiednсz** (горад Свідніца). П. с. капіраваў сучасны яму *паўгрош польскі* тыпалагічна і палеаграфіяй легенд, таму амаль не адрозніваўся ад кракаўскай чаканкі.

У 1517 Жыгімонт I Стары запатрабаваў ад Сілезіі спынення эмісіі П. с. і забароны ўвозу яго ў Польшчу, у 1518 забараніў яго абарачэнне, у 1524 спыніў выезд купецтву ў Сілезію на 10 гадоў. Канстытуцыя Кракаўскага сейму 1527 абвясціла пра скупку Кракаўскім манетным дваром да 2.3.1528 П. с. па 5 *дэнарыяў польскіх* за штуку, Пятркоўскі сейм 1528 — па 8 дэнарыяў, падоўжыў тэрмін яго выкупу да 26.6.1528 і дазволіў выплату падаткаў у П. с. Па распрацаванай новай сістэме скупкі паўгроша ёю займаліся Кракаўскі, Тарунскі манетныя двары і спец. арганізаваныя пункты ў Польшчы і ВКЛ. За жнівень — верасень 1546 у Гродне было скуплена 202 500 П. с., за той жа час і ў студзені 1547 у Брэсце — 658 125, за верасень 1546 у Мазыры і Полацку — па 168 750. З пераплаўленых П. с. у 1528 былі адчаканены *тры грошы* польскія, у 1528—29 — *шэсць грошаў* польскіх. Апошняя пераплаўка П. с. Віленскім манетным дваром зафіксавана ў 1562. П. с. ў вял. колькасці выяўлены ў скарбах 16 і 17 ст. на тэр. Беларусі.

*Літ.*: 1660, 1663, 1754.

*В. Н. Рабцэвіч.*

**ПАЎЗЯМЛЯНКА,** тып жылой пабудовы, часткова заглыбленай у зямлю. Вядома з эпохі палеаліту. Існавала побач з *наземнымі жытламі*. На познапалеалітычнай стаянцы *Бердыж* П., апорныя канструкцыі якіх зроблены з чарапоў і буйных касцей мамантa, былі заглыблены ў зямлю на 0,4—0,6 м. У неаліце пашырыліся круглыя і авальныя ў плане жытлы пл. 10—15 м$^2$, заглыбленыя ў зямлю на 0,4—0,5 м. Сцены і перакрыцці рабіліся з лёгкіх матэрыялаў. Купала- або конусападобная страха апіралася на слуп у цэнтры жытла. Унутры размяшчалі агнішчы, вымашчаныя або выкладзеныя камянямі. У познім неаліце П. былі амаль прамавугольныя, у бронзавым веку іх будавалі з бярвён прамавугольнымі ў плане. Жытлы кожнай культуры мелі свае асаблівасці. У плямён палескай групы *шнуравой керамікі культуры* П. былі авальныя, памеры 5×2,5—3 м, заглыбленыя ў зямлю на 0,3—0,4 м. Унутры П. *сосніцкай культуры* (памеры каля 6,2×7,2×0,7—1 м) рабілі глінабітныя агнішчы. У плямён *тшцінецкай культуры* П. мелі слупавую канструкцыю (памеры каля 2,5—14×2—7×1 м), сцены былі з плятня, абмазанага глінай, стрэхі двухсхільныя, у сярэдзіне размяшчаліся каменныя агнішчы або печы. Траплялiся двухкамерныя жытлы з 2 агнішчамі. У раннім жал. веку плямёны *мілаградскай культуры* будавалі П. няправільнай формы, квадратныя ці прамавугольныя ў плане пл. 12—16 м$^2$, заглыбленыя ў зямлю на 0,2—0,6 м. Характэрная асаблівасць такіх жытлаў — наяўнасць выступу прамавугольнай, круглай ці авальнай формы ў адной з сцен або вуглоў. Двухсхільная страха мацавалася на тоўстых сохах. Адкрытыя агнішчы размяшчаліся паміж цэнтр. слупам і сцяной. Плямёны *зарубінецкай культуры* на Палессі жылі ў прамавугольных у плане П., заглыбленых у зямлю на 0,5—0,7 м, з глінабітнымі агнішчамі ўнутры. Славянскія плямёны *пражскай культуры* будавалі П. слупавой канструкцыі, квадратныя або прамавугольныя ў плане (даўж. сцен 2,5—5 м), заглыбленыя ў зямлю на 0,4—1,2 м.



**Паўгрош свідніцкі** 1526.




**Паўкапейкі:** 1925 (уверсе); 1928.

З унутранага боку сцены ўмацоўвалі дадатковымі слупамі. У адным з кутоў размяшчалі каменныя або глінабітныя печы, чарэнь якіх абмазвалі глінай або выкладалі каменнымі пліткамі. Падлога ў жытлах была земляная, часам падмазаная глінай, у 8—9 ст. вымашчаная драўлянымі плашкамі. У плямён *атокінскага варыянта банцараўскай культуры* П. слупавой ці зрубнай канструкцыі спачатку былі пашыраны на Пд Верхняга Падняпроўя. Мелі квадратную або прамавугольную форму, памер ад 3×3 м да 4×4 м. У цэнтры іх знаходзіўся апорны слуп, які падтрымліваў 2- або 4-схільную страху. Агнішча размяшчалася паміж слупам і сцяной. Пазней апорны слуп знік, а замест агнішча ў адным з кутоў рабілі печ-каменку. У 6 ст. П. без апорнага слупа з печчу-каменкай пашырыліся на Пн і ПнЗ арэала культуры. П. існавалі на Беларусі да 9—10 ст., потым выцеснены наземнымі жытламі *зрубнай канструкцыі*.

*Літ.*: 460, 772, 785, 847, 998.

*А. Р. Мітрафанаў.*

**ПАЎІМПЕРЫЯЛ,** залатая манета Расійскай імперыі вартасцю 5 рублёў.

П е ц я р б у р г с к і м а н е т н ы д в о р, намінал **цена пять руб.** у 1755—59, 1762—63 (*залатніковая проба* 88, лігатурная маса 8,26 г), 1764—78, 1780—86, 1788—92, 1794—96 (проба 88, маса 6,54 г); намінал **5 рублей** у 1832—85 (проба 88, маса 6,54 г), 1886—95 (проба 86 $^2/_5$, маса 6,54 г), у 1832 адчаканены П. з дадатковым надпісам на *рэверсе* **из росс. колыв.** (1000 экз., проба 88, маса 6,54 г) з выпадку пачатку здабычы золата на Калывана-Васкрасенскіх прыісках; намінал **полуимпериал, 5 рублей золотом** у 1896 (проба 86 $^2/_5$, маса 6,45 г). К р а с н ы м а н е т н ы д в о р, намінал **цена пять руб.** у 1756, 1763 (проба 88, маса 8,26 г). Б а н к а ў с к і м а н е т н ы д в о р (г. Пецярбург), намінал **пять рублей** у 1799—1805 (проба 94 $^2/_3$, маса 6,08 г). В а р ш а ў с к і м а н е т н ы д в о р, намінал **5 рублей** у 1842, 1846, 1848—49 (проба 88, маса 6,54 г). У выніку *грашовай рэформы Вітэ* ў 1897 эмітаваны П. той жа пробы і масы, што выпускі 1886—96, але з наміналам **7 рублей 50 копеек.** 5-рублёвікі (проба 86 $^2/_5$, маса 4,30 г), эмісія якіх працягвалася ў 1897—1907, 1909—1911 Пецярбургскім манетным дваром, па рэальнай вартасці складалі $^1/_3$ часткі новага імперыяла, таму ў 1910 7,5-рублёвыя П. зняты з абарачэння.

*Літ.*: 1615, 1620. *В. С. Касмылёў.*

**ПАЎКАПЕЙКІ,** медная манета Расійскай імперыі і СССР. Р а с і й с к а я і м п е р ы я. Намінал — **$^1/_2$ копейки серебром** (маса 5,12 г) уведзены *грашовай рэформай Канкрына*.

Выпускалі Сузунскі (1839—47), Екацярынбургскі (1840—44), Пецярбургскі (1840—42) манетныя двары (адзнакі двароў гл. ў арт. *Манетныя двары Расійскай дзяржавы*), *Варшаўскі манетны двор* (1848). Намінал — **$^1/_2$ копейки** (маса 1,64 г). Выпускалі Екацярынбургскі (1867—76), Пецярбургскі (1867—71, 1876—90, 1892—1900, 1908—16) манетныя двары.

С С С Р. Намінал — **пол/копейки** (маса 1,64 г). Выпускаў Ленінградскі манетны двор (1925, 1927—28, адзнакі двара гл. ў арт. *Манетныя двары СССР*).

*Літ.*: 1615, 1620.

**ПАЎКАРАБЕЛЬНІК,** п а ў к а р а б е л н і к, п а ў к а р а б е л е н і к, назва палавіннай фракцыі *нобля* ў бел. пісьмовых крыніцах 1480—1530-х г.

**ПАЎКОПКА** (польск. półkopek), сярэбраная манета, парытэтная паўкапе грошай, першы талер ВКЛ (лотавая проба XI $^3/_4$, *лігатурная маса* 27,80 г).

Выпускаў *Віленскі манетны двор* (1564—65) у 2 варыянтах. У адным на *аверсе* — увянчаная каралеўскай каронай манаграма імя Жыгімонта II Аўгуста, па яе баках — дата **15—64**, унізе адзнака наміналу — **XXX** [грошаў], легенда адсутнічае; на *рэверсе* — увян-

чаны велікакняжацкай шапкай падобны на англійскі геральдычны шчыт з гербамі Польшчы (аднагаловы арол), ВКЛ (Пагоня), кн. Кіеўскага (архангел Міхаіл), Жмудзі (мядзведзь, што крочыць улева), Валыні (прамы геральдычны крыж з падоўжанымі верхняй і ніжняй галінамі), у цэнтры — малы «англійскі» шчыток з гербам неапалітанскага роду Сфорца (звілістая змяя), легенда адсутнічае. У другім на аверсе — пагрудны (управа) партрэт Жыгімонта II Аўгуста ў кароне, легенда адсутнічае; на рэверсе тая ж выява, што ў манеты 1564, але з датай 15—65, адзнака наміналу — 30. У 1564 адчаканена таксама і чвэрцькопка (літоўскі *паўталер*).

*Літ.:* 1667, 1740, 1741.

*В. Н. Рабцэвіч.*




**Паўкопкі:** 1. 1564; 2. 1565.

**ПАЎЛАВА** Клаўдзія Васілеўна (н. 30.6.1922, в. Падхабіна Навадугінскага р-на Смаленскай вобл.), рускі археолаг. Скончыла Ленінградскі ун-т (1951). У 1951—87 навук. супрацоўнік Ленінградскага аддзялення Ін-та археалогіі АН СССР. Асн. тэмы даследаванняў — пахавальныя помнікі Верхняга Панямоння, гісторыя і культура стараж. Навагрудка. Даследавала пахавальныя помнікі ў наваколлі Навагрудка (раскапала каля 80 курганоў, у т. л. могільнікі каля в. Батароўка, *Брацянка, Гарадзілаўка, Мольнічы, Суляцічы, Сялец*), вызначыла этнічны склад насельніцтва, якое пакінула гэтыя могільнікі і непасрэдна ўдзельнічала ў фарміраванні бел. народнасці.

*Тв.:* Раскопки могильника близ Новогрудка // Краткие сообщения Ин-та археологии АН СССР. М., 1965. Вып. 104; Могильник на территории окольного города древнего Новогрудка // Там жа. 1967. Вып. 110; Об одном типе височных колец из древнего Новогрудка // Там жа. 1969. Вып. 120; Хозяйственные постройки XII—XIII вв. на детинце древнего Новогрудка // Там жа. 1972. Вып. 129; Раскопки курганов у дер. Городиловка // Там жа. 1973. Вып. 135; Могильники у деревень Мольничи и Сулятичи // Там жа. 1974. Вып. 139; Раскопки курганов у деревень Селец и Ботаревка в Понеманье // Там жа. 1977. Вып. 148; Погребальные памятники окрестностей Новогрудка // Там жа. 1981. Вып. 166; Некоторые итоги исследования курганных могильников в окрестностях Новогрудка // Этногенез белорусов. Мн., 1973.

*М. У. Малеўская.*



К. В. **Паўлава.**

**ПАЎНОЧНАБЕЛАРУ́СКАЯ КУЛЬТУ́РА,** археал. культура плямён позняга неаліту і ранняга бронзавага веку, якія ў канцы 3-га — 1-й пал. 2-га тысячагоддзя да н. э. жылі на тэр. сучасных Віцебскай, Пн Мінскай, Пд Пскоўскай абласцей, а таксама праніклі ў некаторыя суседнія раёны. Сфарміравалася на аснове крывінскага варыянта *нарвенскай культуры* пад уплывам культур позняга неаліту і ранняга бронзавага веку Падняпроўя. Насельніцтва займалася паляваннем, рыбалоўствам, збіральніцтвам, а таксама прымітыўным земляробствам і жывёлагадоўляй. Жыло на берагах азёр і невял. рэк у збудаваннях з двухсхільным дахам. Для культуры характэрны разнастайны вастрадонны і пласкадонны посуд з дамешкам тоўчаных ракавін у цесце сценак, паверхні якіх заштрыхаваны і пакрыты арнаментам з гарызантальных паясоў, адбіткаў грэбеня, насечак і наколаў. Прылады працы і зброі выраблялі пераважна з рога і косці (наканечнікі стрэл, кінжалы, нажы, праколкі, гарпуны, рыбалоўныя кручкі, сякеры, дзяржанні кінжалаў, лыжкі і інш.). Былі вырабы з крэменю, шырока ўжывалася для гасп. патрэб дрэва. На апошнім этапе існавання П. к. выкарыстоўваліся медныя і бронзавыя вырабы. З зубоў, косці і бурштыну выраблялі разнастайныя ўпрыгожанні. На стаянках знойдзены творы першабытнага мастацтва: статуэткі людзей, звяроў і птушак, гравіраваныя выявы людзей на кераміцы, арнаментаваныя вырабы. На Беларусі найб. вядомыя помнікі: *Касцюкі,* Крывіна-1, 2, 3, *Асавец*-2, 5 (верхнія пласты).

*Літ.:* 1303. *М. М. Чарняўскі.*

**ПАЎПАЛУ́ШКА,** медная манета Расійскай імперыі вартасцю ў 1/8 *капейкі.* Намінал **полъ полушки** (маса 1,60 г). Выпускаў Набярэжны медны двор (1700, адзнакі двара гл. ў арт. *Манетныя двары Расійскай дзяржавы).* Знята з эмісіі, таму што рынак не меў патрэбы ў такой дробнай грашовай адзінцы. Гл. таксама арт. *Грашовая рэформа Пятра I, Палушка.*

*Літ.:* 1615, 1620.

**ПАЎПАЛЦІ́ННІК,** паўпалціны, манета Расіі вартасцю ў 1/4 рубля.

Сярэбраны П. 1654 (чаканка на чвэртках разрубленых талераў) 1701—05 (*залатніковая проба* ≈ 84, *лігатурная маса* ≈ 7 г), 1707 (проба ≈ 84 і 77, маса ≈ 7 г), 1710 (проба ≈ 77 і 72, маса ≈ 7 г), 1713 (проба ≈ 72, маса ≈ ≈ 7 г), 1726 (проба ≈ 72 і 55, маса ≈ ≈ ≈ 6,65 г), 1730 (проба 70, маса 7,11 г), 1739—41, 1743—46, 1748—54 (проба 77, маса 6,46 г), 1755—58 (проба 77, маса 6,04 г), 1764—70, 1774—75, 1779, 1781, 1783—96 (проба

72, маса 5,97), 1797 (проба 83¹/₃, маса 7,31 г), 1798—1805, 1808—10, 1827 (проба 83¹/₃, маса 5,18 г.) Намінал — **полуполтинникъ,** толькі ў 1726 — **полъ пол/тины** і піраміда з 25 рэльефных кропак. Без адзнак манетнага двара выпушчаны П. 1701—05, 1707, 1710, 1713, 1730, 1739—41, 1746—47. Выпускалі Кадашаўскі (1704), Красны (1743—58, 1764—70, 1774—75), Пецярбургскі (1726, 1779, 1781, 1783—1805, 1808—10, 1827) манетныя двары. Медны П. (*плата*, маса 409, 51 г) выпускаў Екацярынбургскі манетны двор (1725, 1726, адзнакі манетных двароў гл. ў арт. *Манетныя двары Расійскай дзяржавы).*

*Літ.:* 1615, 1620. *М. І. Смірноў.*

**ПАЎПЕ́НЯЗЯ,** манета ВКЛ наміналам у *абол* або ¹/₂ *дэнарыя літоўскага (лотавая проба* 1³/₄, *лігатурная маса* 0,30 г). Выпускаў *Віленскі манетны двор* у 1545—47, 1554. У бел. пісьмовых крыніцах 16 ст. вядомы пад назвай «пенязь малы».

**ПАЎТА́ЛЕР,** сярэбраная манета *наміналам* у ¹/₂ *талера.* У бел. пісьмовых крыніцах 16—18 ст. вядомы пад назвамі паўталяра, паўталера, паўталярак, паўталерак, паўталярка, паўталерка. Першы П. ВКЛ у 16 ст. меў назву *чвэрцькопка.*

**ПАЎТАРА́ ГРО́ША** (польск. półtorak), білонная манета Рэчы Паспалітай 17—18 ст. На Беларусі, Украіне і суседніх з імі тэр. Расіі называўся чэхам або паўтаракам. 1) Тыпалагічнае перайманне *драйпёлькера.*

На *аверсе* — увянчаны каралеўскай каронай «іспанскі» геральдычны шчыт з гербам Рэчы Паспалітай (па чарзе аднагаловыя арлы і «Пагоня»), у цэнтры — малы геральдычны шчыток з гербам дынастыі Вазаў (Снапок), пад шчытом адзнака наміналу — 3 [тры паўгрошы], кругавая *легенда;* на *рэверсе* — дзяржава (сімвал улады), на якой лічбы застарэлай на той час вартаснай характарыстыкі талера — 24[П. г.], г. зн. 36 *грошаў* (на манетах 1614—28, 1661), 60[П. г.] — 90 грошаў (1650, 1652, 1661—62) або 61 (П. г.) — 90,5 гроша (1661), кругавая легенда. Гэтыя П. г. былі парытэтныя сярэбранай капейцы. Манеты 1614—18 (*лотавая проба* VII ¹/₂, *лігатурная маса* 1,54 г), 1619—22 (проба VI ¹/₂, маса 1,21 г), 1623—28 (проба VI, маса 1,18 г), 1650, 1652, 1654 (проба VII, маса 0,91 г), 1658—59, 1661—62, 1666 (проба IV ¹/₂, маса 1,087 г). Выпускалі Быдгашчанскі (1614—28 і недатаваныя), Кракаўскі (1615—18), Пазнанскі (1654, 1658—59, 1662, 1666), Львоўскі (1661) манетныя двары, *Віленскі манетны двор* (1619—20, 1650, 1652), Рыжскі манетны двор (1616—17, 1620, 1624, адзнакі двароў гл. ў арт. *Манетныя двары Рэчы Паспалітай).*

2) Лейпцыгскі манетны двор 1753, 1755—56, (адзнакі двара гл. ў арт. *Манетныя двары Саксоніі*) чаканіў П. г. (проба IV ¹¹/₁₈, маса 1,087 г) 2 разнавіднасцей.



**Паўпалцiннiк.** Расія: 1—3. Пётр I, 1701, 1707, 1713; 4. Кацярына I, 1726; 5. Лізавета Пятроўна, 1755; 6. Кацярына II, 1776; 7. Аляксандр I, 1809; 8. Мікалай I, 1827.



**Паўпалушка 1700.**

У адной на аверсе — увянчаны каралеўскай каронай круглы геральдычны шчыт з гербам Рэчы Паспалітай, у цэнтры — малы шчыток з гербам Саксоніі, легенда адсутнічае; на рэверсе — адзнака наміналу ў 3 радкі — **pul/to/rak**, унізе дата — 1753. У другой на аверсе — профільны ўправа пагрудны партрэт Аўгуста III, кругавая легенда; на рэверсе — герб Польшчы (аднагаловы арол з гербам Саксоніі на грудзях, пад крыламі дата — 1755 або 1756), унізе паўкружная адзнака наміналу — **pultorak.**

*Літ.:* 1671, 1695, 1750. *В. Н. Рабцэвіч.*

**ПАЎТАРА́ РУБЛЯ́,** сярэбраная манета Расійскай імперыі (*залатніковая проба* 83¹/₃, *лігатурная маса* 31,10 г). Пецярбургскі манетны двор

(1833—41) і *Варшаўскі манетны двор* (1834—41) выпускалі двухмоўныя П. р. з наміналам $1^1/_2$ **рубля — 10 zlot** [ych] (гл. ў арт. *Манеты двухмоўныя*).

У 1835—36 Пецярбургскі манетны двор выпусціў двухмоўныя П. р., на аверсе якіх — профільны ўправа партрэт Мікалая I; на *рэверсе* — профільны ўправа партрэт імператрыцы Аляксандры Фёдараўны, па крузе каля краю *поля* манеты — профільныя партрэты 4 цэсарэвічаў і 3 цэсарэвен (2 разнавіднасці *штэмпеляў;* на манетах 1835 усе партрэты ў круглых рамках, 1836 — у рамцы толькі партрэт Аляксандры Фёдараўны, аўтар П. Уткін), імя гравёра (гл. у арт. *Ініцыялы гравёраў)* пазначана на абодвух баках манет 1835, у выпусках 1836 — на аверсе або адсутнічае. Вядомы экз. залатога П. р. 1836 (проба 88) з пазначэннем імя Уткіна на аверсе. Магчыма, гэтую манету меркавалі выпусціць у 1835 як мемарыяльную з нагоды 10-годдзя царавання Мікалая I, але тыраж выйшаў у наступным годзе, таму яна стала *манетай-данатывай*. П. р. 1835—36 звычайна называюцца «сямейнымі» або «фамільнымі». У 1839 выпусціў П. р. з наміналам **$1^1/_2$ рубля,** прысвечаны 25-годдзю Парыжскага дагавора 1814 (гл. ў арт. *Манеты мемарыяльныя Расійскай імперыі).*

*Літ.:* 1615, 1620. *М. І. Смірноў.*

**ПАЎТАРА́К,** назва манеты наміналам у *паўтара гроша* і *драйпёлькера* на Беларусі, Украіне і ў суседніх з імі абласцях Расіі ў 17—18 ст. Гл. таксама *Чэх.*

**ПАХАВА́ЛЬНЫ АБРА́Д,** сукупнасць строга акрэсленых дзеянняў, якімі суправаджалася пахаванне нябожчыка. Археал. крыніцы дазваляюць прасачыць некаторыя асноўныя (формы П. а., пол пахаванага, арыенціроўка, палажэнне рук) і дадатковыя (сляды агню, пасудзіны, труна, каменне, косці жывёл) элементы П. а. Форма П. а.— спалучэнне віду пахавальнага збудавання з відам (г. зн. з характарам пахавання) і тыпам (г. зн. з узроўнем пахавання) П. а. На П. а. аказвалі ўплыў рэлігійныя ўяўленні, этнічная прыналежнасць нябожчыка, яго становішча ў грамадстве. Зафіксаваны разнастайныя віды пахавальных збудаванняў (*бдын, курган,* грунтавая магіла, *каменныя могільнікі,* крыж), віды П. а. (трупаспаленне — поўнае або няпоўнае, на месцы або за межамі пахавання, трупапалажэнне), тыпы П. а. (ямны і наземны), арыенціроўка (галавой на З, У, Пн, Пд, сядзячае або скурчанае становішча касцяка), палажэнне рук (абедзве рукі ўздоўж тулава або на жываце ці на грудзях; адна рука ўздоўж тулава, другая на жываце ці на грудзях і інш.), сляды агню (кальцыніраваныя косці, перадпахавальныя, пахавальныя і пасляпахавальныя вогнішчы, попел і вуголле ў насыпе або каля касцяка і інш.), віды пасудзін (керамічныя і драўляныя), разнавіднасці трун (з дошак, плах, бярвён, выдзеўбаныя калоды). Кераміка ў трупаспаленнях выконвала ролю труны, але магла (асабліва пры трупапалажэннях) утрымліваць ежу для нябожчыка, у драўляных пасудзінах ставілі пітво. У рытуальных мэтах зрэдку гліняныя гаршкі разбівалі. У познім палеаліце нябожчыкаў хавалі ў спец. ямах на баку або ніцма з падкурчанымі нагамі або ў позе спячага, астанкі часта пасыпалі чырвонай фарбай (вохрай) ці вугаллем, што азначала магічную замену крыві або агню. Побач клалі рэчы памерлага. Такі П. а. быў звязаны з рэлігійнымі ўяўленнямі, верай ў замагільнае жыццё, а таксама і са страхам перад незразумелай для першабытнага чалавека з'явай — смерцю. На тэр. Беларусі такія пахаванні пакуль невядомы. У бронзавым веку на тэр. Беларусі вядомы пахаванні ў грунтавых магілах (*Пралетарскі, Рудня-Шлягіна* Веткаўскага р-на) і курганах (*Ходасавічы* Рагачоўскага р-на), якія належалі *сярэднедняпроўскай культуры.* Месца пахавання звычайна «ачышчалася» агнём, потым на месцы вогнішча выкопвалі прамавугольную або авальную яму, куды змяшчалі нябожчыка і яго рэчы (у першую чаргу прылады працы, упрыгожанні, зброю, гліняныя пасудзіны з ежай). З дапамогай драўляных плах і бярвён пахавальную яму нярэдка абсталёўвалі накшталт хаты. Потым над адной або некалькімі магіламі насыпалі курган. Адначасова з П. а. трупапалажэння (інгумацыя) з'явіліся пахаванні з абрадам трупаспалення (крэмацыя). У жал. веку яны сталі асноўнай формай П. а. Трупаспаленні найчасцей рабілі не на месцы пахавання, а па-за межамі могільніка. Потым ачышчаныя ад кастра рэшткі спалення змяшчалі ў спец. гліняны гаршчок — урну — і хавалі пераважна ў грунтавой магіле. Такі П. а. з невял. выключэннямі быў характэрны для плямён *мілаградскай культуры, зарубінецкай культуры, паморскай культуры, вельбарскай культуры* і інш. (*Адаменка, Атвержычы, Вароніна, Велямічы, Брэсцкі бескурганны могільнік, Гарошкаў, Новы Быхаў, Тайманава, Трасцяніца, Чаплін* і інш.). З'яўленне П. а. з трупаспаленнем не мае яшчэ адназначнага тлумачэння, але ён, безумоўна, звязаны з культам рытуальнага агню. Суіснаванне розных відаў П. а. на сумежных тэрыторыях можа сведчыць і пра складванне мясц. этнічных традыцый, якія ў выніку перамяшчэнняў плямён пераносіліся на вял. адлегласці. Пасобныя пахаванні звычайна ўтваралі *могільнікі,* плошча якіх залежала ад памераў суседніх паселішчаў і ад часу іх існавання. Курганы на тэр. Беларусі ў раннім жал. веку не атрымалі пашырэння (выключэнне складае курганны могільнік Дубай Столінскага р-на, які належаў мілаградскай культуры). Відаць, нейкія збудаванні над грунтавымі магіламі існавалі, бо амаль ніколі новыя магілы не парушалі старыя. Узнаўленне пахаванняў у курганах на тэр. Беларусі адбылося ў 2-й пал. 1-га тысячагоддзя н. э. сярод усх.-слав. насельніцтва. У 8—9 ст. курганы цалкам выціснулі грунтавыя пахаванні. Абрад трупаспалення, як і раней, адбываўся па-за межамі могільніка або на месцы пахавання. Рэшткі крэмацыі змяшчалі ці на



Да арт. **Пахавальны абрад.** Пахаванне 13 ст. на Мінскім замчышчы.



Да арт. **Пахавальны абрад.** Пахаванне ў курганным могільніку-1 каля в. Домжарыцы (Лепельскі р-н).

«ачышчаным» агнём грунце, ці ў насыпе на рознай вышыні (Вайская, *Гаравыя, Дарахі, Курганне, Радасць, Старое Сяло* і інш.). У канцы 9—10 ст. паявіўся і паступова распаўсюдзіўся П. а. трупапалажэння, а ў пач. 11 ст. трупаспаленне (крэмацыя) зусім знікла, хоць агонь застаўся ў П. а. ў выглядзе вогнішчаў або попелу, які прыносілі з інш. месцаў (магчыма, з хатняй печы). З 11 ст. на поўдні, а з 12 ст. на ўсёй тэр. Беларусі пашырыліся пахаванні ў падкурганных ямах. Нябожчыка звычайна (ва ўсіх відах курганных пахаванняў) клалі на спіну, галавой на З, вельмі рэдка сустракаліся пахаванні, дзе нябожчыкі знаходзіліся быццам бы ў сядзячым становішчы (магчыма, перад пахаваннем іх звязвалі). Ёсць меркаванне, што так хавалі ведзьмакоў і чараўнікоў. Трапляюцца і так зв. «пустыя курганы» — *кенатафы*, у якіх ёсць усе элементы пахавання, але няма нябожчыка. Магчыма, іх насыпалі ў памяць пра тых, хто загінуў на чужыне або прапаў без вестак. Нябожчыкаў апраналі ў лепшае адзенне, побач клалі іх асабістыя рэчы (звычайна ўпрыгожанні, у мужчынскія пахаванні — зброю), рэдка — прылады працы, ставілі гаршкі з ежай. Канструкцыі пахаванняў былі разнастайныя: захаваліся сляды плах, бярвён і нават зрубаў, якія імітавалі хаты, трапляюцца рэшткі дамавін. У адрозненне ад пахаванняў бронзавага веку у сярэднявечных курганах змяшчалі звычайна па адным нябожчыку, што з'яўляецца сведчаннем панавання малых сямей. Часам да пахавання дарослага далучалі астанкі дзіцяці. Пераважаюць пахаванні 30—36-гадовых людзей. Пісьмовыя крыніцы сведчаць, што П. а. усх.-слав. плямён уключаў таксама страву (памінальную ежу) і *трызну* (ваенна-спартыўныя спаборніцтвы ў гонар нябожчыка). З 12 ст. звычай пахавання ў курганах пачаў знікаць і ў 14 ст. перамог кананічны хрысціянскі П. а. (у гарадах, дзе хрысціянізацыя адбылася раней, курганы змяніліся звычайнымі могілкамі яшчэ ў 11 ст.). Этнаграфічныяназіранні дазваляюць меркаваць пра наяўнасць ужо ў старажытнасці такіх элементаў П. а., як абмыванне нябожчыка, галашэнні, парадак вынасу труны, а пасля ўвядзення хрысціянства чытанне псалтыра і адпяванне. П. а. вызначаецца кансерватыўнасцю, асобныя яго рысы захоўваюцца на працягу многіх стагоддзяў, розныя П. а. могуць незалежна суіснаваць, магчыма і іх узаемадзеянне: так, *крывічы, дрыгавічы* і *радзімічы* зазналі ўплыў П. а. *балтаў*, а хрысціянская царква доўга вымушана была мірыцца з перажыткамі язычніцтва. У эвалюцыі П. а. яшчэ шмат недаследаванага. Няма пэўнай думкі аб прычынах узнікнення курганоў у старажытнасці і аб іх новым распаўсюджанні ў раннім сярэднявеччы. Магчыма, на пачатку актыўнага рассялення ўсіх славян у 6—7 ст. узнікла патрэба ў большай абароне пахаваных пры адыходзе ад магіл продкаў. Пераход ад крэмацыі да інгумацыі ў пач. 2-га тысячагоддзя н. э. адлюстроўвае шэраг сацыяльна-палітычных і ідэалагічных змен у час складвання раннефеад. грамадства ва ўсх. славян: вылучэнне пануючых вярхоў, паступовыя змены сацыяльнага статуса сялянства, паяўленне і распаўсюджанне хрысціянства. Дэталі А. п. (размяшчэнне нябожчыка ў насыпе ці на грунце, наяўнасць і асаблівасці збудаванняў) адлюстроўвалі, напэўна, мясц. этнаграфічныя традыцыі, якія паступова нівеліраваліся.

*Літ.:* 140, 233, 805, 847, 848, 1008, 1014, 1019, 1061.

*У. У. Багамольнікаў, Я. Р. Рыер.*

**ПАЦЕРКІ**, дробныя ўпрыгожанні са скразнымі адтулінамі, нанізаныя на нітку або шнурок. Носяць на шыі ў выглядзе караляў, паасобныя П. выкарыстоўвалі для ўпрыгожання вопраткі, галаўных убораў, абутку. У старажытнасці П. надавалі магічныя ўласцівасці. Яны вядомы ў многіх народаў з эпохі неаліту. Выраблялі іх з зерня раслін, пладовых костачак, ракавін, вапняковых трубачак і інш. У эпоху бронзы выраблялі спіралепадобныя бронзавыя, сякерападобныя бурштынавыя, цыліндрычныя касцяныя, медныя П. У раннім жал. веку на Пд і ПдУ Беларусі пашыраны шкляныя П. Для плямён *мілаградскай культуры* характэрны П. мона- і паліхромныя з глухога і паўпразрыстага шкла (сіняга, блакітнага, зялёнага, жоўтага), асобныя П. па форме шарападобныя, зонныя (баранкападобныя), канічныя і біканічныя, прамавугольныя, рабрыстыя; у дэкоры паліхромных П. хвалістыя і прамыя лініі, «вачкаваты» арнамент (кругавыя абводкі кантрастнай па колеры шкляной ніццю). Некаторыя нізкі П. уключалі бронзавыя прывескі-*амулеты*. У плямён *зарубінецкай культуры* пашыраны П. з празрыстага і глухога шкла (фіялетавага, сіняга, блакітнага, зялёнага, жоўтага), малочна-белыя, з пракладкай з залатой фольгі, празрыстыя светла-карычневыя, чырвоныя, фіялетавыя, чорныя; паводле формы — зонныя, цыліндрычныя, шарападобныя, эліпсоідныя, дыска- і ромбападобныя, т. зв. рублены бісер, шарападобныя спараныя; дэкор аналагічны П. мілаградскай культуры. Былі таксама сердалікавыя і гліняныя П; нізкі часта ўключалі металічныя ланцужкі і спіралькі. Шырока выкарыстоўваліся сярэбраныя і бронзавыя зярнёныя П., нанізаныя на дрот (у *дрыгавічоў*), шкляныя бочачкападобныя, цыліндрычныя залачоныя (у *крывічоў*), сердалікавыя шкляныя, бурштынавыя, паставыя (у радзімічаў). Карысталіся таксама П. з грэчаскіх і рымскіх гарадоў Прычарнамор'я. Значнае пашырэнне набылі П. у 10—13 ст. Імі аздаблялі адзенне, *скроневыя кольцы, грыўні, бранзалеты*. Некаторыя нізкі налічвалі да 100—400 і болей П. Яны былі разнастайныя паводле формы і колеру (з глухога, празрыстага і паўпразрыстага шкла, мона- і паліхромныя). Пашыраны былі шматчастковыя шкляныя нізкі, рублены бісер. П. з пракладкай з залатой або сярэбранай фольгі, сердалікавыя, хрусталёвыя, бурштынавыя (апошнія выраблялі на тэр. Брэсцкай і Гомельскай абласцей да пач. 20 ст.), каменныя, з каляровых і паўкаштоўных металаў. Часта П. ўключалі прывескі (лунніцы, крыжыкі, бомкі і інш.). У 11—14 ст. шкляныя П. выраблялі ў Гродне, у 11—13 ст.— у Навагрудку, у 12 ст.— у Полацку, у 18 ст. на Гродзенскай мануфактуры шкляных пацерак, а таксама мясцовыя ювеліры і шкларобы бел. гарадоў і мястэчак (Урэчча, Любанскі р-н і інш.). П. з металічнымі падвескамі аздаблялі бел. народнае адзенне.

*Літ.:* 772, 847, 848, 893, 1344, 1396, 1398.

*Ю. А. Заяц*

**ПАШАВІЧЫ**, бескурганны могільнік 11—13 ст. каля в. Пашавічы Браслаўскага р-на. За 1,5 км на ПдЗ ад вёскі, на мысе воз. Дрысвяты. Даследаваў у 1991 Г. М. Семянчук. Выяўлена 7 пахаванняў паводле абраду трупапалажэння: 5 шкілетаў ляжалі на спіне ў выцягнутым становішчы, арыентаваныя галавой на З; адно пахаванне дзіцячае, адно пахаванне — напаўспаленыя косці, сабраныя ў кучу. Адзін шкілет быў у драўлянай труне памерам 2,1×0,6 м. У раскапаных 4 рытуальных ямах авальнай формы дыям. 0,6—2,6 м выяўлены рэшткі вогнішчаў, косці жывёл, фрагменты ганчарнай керамікі.

Сярод знаходак 2 ганчарныя гаршкі, 5 жал. нажоў, 5 бронзавых і 1 сярэбранае паўтараабаротныя кольцы, мініяцюрны бранзалет з зааморфнымі галоўкамі, 2 хрустальныя, сердалікавая і шкляная пазалочаная пацеркі, 2 грабеньчыкі, 2 спражкі і 2 паясныя кольцы з бронзы, крэсіва, ключ, вастрыё з рухомым кольцам, брусок. Могільнікам, відаць, карысталіся жыхары населенага пункта, які размяшчаўся на востраве воз. Дрысвяты.

*Г. М. Семянчук*

**ПАШКАВІЧЫ**, курганныя могільнікі дрыгавічоў каля в. Пашкавічы Мінскага р-на.

Курганны могільнік-1. На ўсх. ускраіне вёскі, ва ўрочышчы Царкавішча, побач з могілкамі 32 насыпы дыям. 5—10 м, выш.

1—2,2 м (адзін дыям. 18,5 м, выш. 3 м), 1 падоўжаны насып памерам 13×7,6 × 1,2 м. Захавалася 10 курганоў. Вядомы з 1824, у 1979 абследаваў В. Е. Собаль, у 1986 даследаваў Ю. А. Заяц (4 насыпы). Пахавальны абрад — трупапалажэнне на мацерыку, у адным кургане — у насыпе. Пахаванні (адзіночныя і парныя) у межах попельнай плямы ад рытуальнага вогнішча, арыентаваны галавой на З.

Знойдзены хрусталёвыя, сердалікавыя і металічныя зярнёныя пацеркі, манетападобныя і умбонападобныя сярэбраныя падвескі, пярсцёнкападобныя, S-падобныя і пацеркавыя скроневыя кольцы, жал. абручы і дужка ад драўлянага вядра, ганчарны посуд. Могільнік датуецца 2-й пал. 10—1-й пал. 11 ст.

Курганны могільнік-2. За 500 м на Пд ад вёскі, ва ўрочышчы Ляшчо. Было 14 насыпаў, 2 з іх выш. 2,5—3 м. Абследаваў у 1930 А. Рынейскі, які адзначаў, што раней курганоў было больш. Могільнік не захаваўся. У 1979 Собаль абследаваў апошні курган (выш. каля 2 м, дыям. 25 м). Знойдзены косці і вугалі.

Недалёка ад вёскі, каля дарогі на в. Клімавічы, былі 2 курганы, якія не захаваліся.

*Літ.:* 1362. *Ю. А. Заяц.*

**ПАШПАРТ НА ПОМНІК АРХЕАЛОГІІ.** Змяшчае наступныя звесткі: від помніка і стан яго захаванасці, назва, месцазнаходжанне і тапаграфічная прывязка, пад'езды да помніка, праведзеныя даследчыя работы, выяўленыя знаходкі, датаванне і культурная прыналежнасць помніка, архіўныя і бібліяграфічныя матэрыялы аб ім. Пазначаюцца межы ахоўнай зоны помніка і арганізацыя, адказная за яго захаванасць. Пашпарты на помнікі археалогіі Беларусі захоўваюцца ў Ін-це гісторыі і Ін-це мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі, Мін-ве культуры Беларусі і яго нізавых арг-цыях, т-вах аховы помнікаў гісторыі і культуры, музеях.

*Л. У. Калядзінскі.*

**ПЕДФОРТ** (франц. pied-fort ад pied апора, аснова + fort вялікі, дужы), назва манеты, выпушчанай на кружку стандартнага дыяметра павялічанай таўшчыні, маса якой кратная масе звычайнай манеты такога ж тыпу. П. рабіўся як штэмпельная проба, *манета-данатыва* (напр., *партугал),* П. *гроша* вядомы ў Францыі і Чэхіі 14—16 ст., П. *талера* пашыраны ў 17 ст.

**ПЕНЯЗІ** (польск. pieniądzy), назва адпаведная паняццю *«грошы»* на Беларусі, Украіне і ў Польшчы ў 14—18 ст.

**ПЕНЯЗЬ** (польск. pieniądz), назва *дэнарыя літоўскага* на Беларусі і Украіне ў канцы 14—17 ст.

**ПЕРАВОЗ,** археал. помнікі каля в. Перавоз Глыбоцкага р-на. Выявіў у 1893 Ф. В. Пакроўскі, абследавалі у 1938—39 Г. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіч, у 1972 М. А. Ткачоў, у 1981 Л. У. Лучыц.

Курганны могільнік-1. За 2 км на У ад вёскі ў лесе, на левым беразе р. Шоша, ва ўрочышчы Пчальнік (Валатоўкі), 172 насыпы выш. 0,4—3 м, дыям. 4—12 м. У 1989 Л. У. Дучыц даследавала 4 курганы. Пахавальны абрад — трупаспаленне; рэшткі крэмацыі пакрыты гаршкамі.

Курганны могільнік-2. За 1,5 км на У ад вёскі, на левым беразе р. Шоша, за 500 м на Пн ад курганнага могільніка-1, ва ўрочышчы Каменнае (Каменка). 10 насыпаў выш. 0,7—1 м, дыям. 7—9 м. Раскопкі не праводзіліся.

Курганны могільнік-3. За 200 м налева ад дарогі ў в. Маргі. 46 курганоў. У 1898 Л. У. Дучыц раскапала 3 курганы. У 2 курганах выяўлены рэшткі трупаспаленняў, пакрытых гаршкамі; у адным з іх сярод касцей былі адназвенныя маленькія цуглі і гаршчок. За 200 м на Пн ад могільніка выяўлены познасярэдневяковы могільнік з каменнымі крыжамі.

Курганны могільнік-4. За 500 м ад дарогі Перадолы — Перавоз. 45 курганных насыпаў і каменныя магілы. 9 курганоў даследавала ў 1989 Л. У. Дучыц. Пахавальны абрад — трупапалажэнне галавою на З у ямах глыб. да 1 м. Пахавальны інвентар: гліняны посуд, шкляныя зялёныя і пазалочаныя пацеркі, бранзалетападобныя скроневыя кольцы з завязанымі канцамі, бранзалет з імітацыяй пляцення, бронзавыя пазалочаныя гузікі.

Курганны могільнік-5. На правым беразе р. Шоша. 20 насыпаў выш. 0,7—1,2 м, дыям. 6—10 м. Раскопкі не праводзіліся.

Курган-1. За 200 м ад дарогі Перадолы — Перавоз. Выш. 1,5 м, дыям. 5 м.

Курган-2. На правым беразе р. Шоша, каля дарогі ў в. Бабруйшчына. Выш. 5 м, дыям. 15 м.

Гарадзішча-сховішча. За 500 м на Пн ад вёскі, на левым беразе р. Шоша.

*Літ.:* 241, 909. *Л. У. Дучыц.*

**ПЕРАЧАКАНКА МАНЕТЫ,** выкарыстанне ўстарэлых манет для вырабу манет новага ўзору. Звычайна звязана са зменай стапы манетнай.

Адрозніваюць мэтанакіраваную П. м., калі перабівалі цалкам вял. партыю манет (звычайна ў кратныя наміналы), і дапаможную, якая мела выпадковы характар і для невял. колькасці манет. Перачаканеная манета вызначаецца па фрагментах старых выяў на *аверсе* і *рэверсе,* несупадзенню *карбоўкі,* павялічаным дыяметры і паменшанай таўшчыні кружка. У Расійскай імперыі П. м. шырока ўжывалася ў 18 ст. для медных манет, стапа якіх мянялася 9 разоў на працягу стагоддзя, таму многія з іх неаднаразова перачаканьвалі. Спадарычна для П. м. адкрывалі часовыя манетныя двары (гл. ў арт. *Манетныя двары Расійскай дзяржавы, Полацкі манетны двор).*

*Літ.:* 1520, 1549, 1620. *І. І. Сінчук.*

**ПЕРХАЎКА** Валерый Барысавіч [н. 4.12.1952, в. Такушы Палудзінскага (цяпер Булаеўскага) р-на Паўночна-Казахстанскай вобл.], беларускі археолаг. Канд. гіст. навук (1978). Скончыў Маскоўскі дзярж. ун-т (1975). З 1978 працуе ў Ін-це гісторыі Расійскай акадэміі навук. Вывучаў раннесярэдневяковыя старажытнасці міжрэчча Дняпра і Нёмана. Адкрыў і даследаваў шэраг помнікаў *калочынскай культуры* на левым беразе Прыпяці (Доўгае, Пагост, Слабодка, Шарэйкі і інш.). Сістэматызаваў рэчавы матэрыял помнікаў 3-й чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. на тэр.Беларусі і абгрунтаваў іх датаванне. Прытрымліваецца думкі пра балцкую прыналежнасць усіх варыянтаў банцараўскай культуры. Вывучае сувязі стараж. насельніцтва Беларусі з зах. і паўд. славянамі, сярэдневяковыя гандл. шляхі на тэр. Беларусі. Выявіў шэраг зах.-слав. элементаў у раннесярэдневяковых помніках Беларусі.

*Тв.:* З гісторыі Слуцка // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1973. № 4; Вопросы раннесредневековой истории Белоруссии (VI—IX вв. н. э.) в польской археологической литературе последних лет (1960—1975 гг.) // Сов. археология. 1977. № 4; Украшения из раннесредневековых памятников междуречья Днепра и Немана // Вестн. МГУ. Сер. 8. История. 1978. № 2; Классификация орудий труда и предметов вооружения из раннесредневековых памятников междуречья Днепра и Немана // Сов. археология. 1979. № 4; Западнославянские элементы в раннесредневековой культуре междуречья Днепра и Немана // Краткие сообщения Ин-та археологии АН СССР. М., 1986. Вып. 187. *В. І. Шадыра.*

**ПЕРШАБЫТНААБШЧЫННЫ ЛАД,** першая найбольш стараж. і працяглая (больш за 2 млн. г.) грамадска-эканам. фармацыя. Для гэтай эпохі характэрны біялагічная эвалюцыя чалавека (гл. *Антрапагенез*), нізкі ўзровень развіцця вытворчых сіл, цесная ўзаемаабумоўленасць абшчынных, родналасных і эканам. сувязей паміж людзьмі, калектыўная ўласнасць на сродкі вытворчасці, ураўняльнае размеркаванне сродкаў існавання. Побыт абшчын быў архаічны, моцна абумоўлены прыродна-геаграфічным асяроддзем (гл. *Палеаэкалогія*). Для грамадства былі характэрны бяскласавая структура, нізкае развіццё соцыума, станаўленне і распаўсюджанне родаплемяннога ладу, эвалюцыя яго ад мацярынска-радавога ладу да патрыярхату, архаічныя формы сям'і. Этапы развіцця

П. л. абгрунтоўваюць агульную *гістарычную перыядызацыю*, якая апіраецца на спец. *археалагічную перыядызацыю.*

У гісторыі П. л. вылучаюць 4—6 перыядаў: першабытны чалавечы статак або праабшчына, раннерадавая першабытная абшчына (эпоха дзікунства), познарадавая першабытная абшчына з развітой прысвойваючай гаспадаркай, познапершабытная, або тэрытарыяльная абшчына з вытворчай аднаабо шматгаліновай гаспадаркай (перыяд ваеннай дэмакратыі). Калі родаплемянны лад дасягнуў сталасці і пачаў да вытворчай гаспадаркі, больш-менш рэгулярна паступаў прыбавачны прадукт, развіваўся першабытны абмен, у выніку ўзаемадзеяння плямён ішло ўзаемаабагачэнне культур. У канцы неаліту і пачатку бронзавага веку пачаўся буйны грамадскі падзел працы, пераход часткі плямён да жывёлагадоўлі (вандроўнікі) або земляробства (аселасці). У гэты час фарміруецца патрыярхат (улада мужчын), звычай патрылакальнага (у абшчыне мужа) пасялення жанчыны, улік ступені роднасці па бацькавай лініі, вял. патрыярхальная сям'я. У адпаведнасці з гэтым пачалася перабудова роду: ён складаўся з некалькіх сямей, у ім вылучалася родаплемянная знаць (савет мужчын-воінаў, ваенныя правадыры). Размелі дачыненне да будаўніцтва шматлікіх гарадзішчаў (да першых стагоддзяў н. э.). Пераход ад П. л. да наступнай фармацыі — феадалізму — на Беларусі зацягнуўся да 6—9 ст., што тыпова для Усх. Еўропы.

*Літ.*: 33, 467а, 1981. *У. Ф. Ісаенка.*

**ПЕРШАБЫТНАЕ МАСТАЦТВА.** Пачало зараджацца ў сярэднім палеаліце (каля 100—40 тыс. г. таму назад). На тэр. Беларусі найстаражытнейшыя мастацкія вырабы вядомы з позняга палеаліту (арнаментаваны абломак біўня маманта са стаянкі *Юравічы*). На блізкіх па культуры помніках суседніх тэрыторый Сярэдняга Падняпроўя вядомы




**Перачаканка манет.** Расія: 1. Пётр I, рубель 1705, чаканены на заходнееўрапейскім талеры; 2. Ганна Іаанаўна, палушка 1730, чаканеная на дзензе 1730 (?); 3. Кацярына II [1762—96], 10 капеек, чаканеныя на 5 капейках Лізаветы Пятроўны [1741—61].

распадацца, а ўнутры яго адбываўся сацыяльны падзел, нараджаліся класавыя адносіны. Двум першым перыядам існавання першабытнай абшчыны, якія прыпадалі на час ад верхняга палеаліту да неаліту, характэрны мацярынска-радавы лад з натуральным падзелам працы і ўраўняльным размеркаваннем здабытага. Адначасова пашыралася матрылакальнае пасяленне — мужчыны пры жанчыне, у яе род. Ступень роднасці вызначалася па мацярынскай лініі. Утвараліся няўстойлівыя парныя сем'і, забяспечвалася экзагамнасць роду, пры гэтым племя заставалася эндагамным, дазваляліся шлюбы толькі паміж аднапляменнікамі. На працягу неаліту (5—3-е тысячагоддзі да н. э.) адбываўся архаічны грамадскі падзел працы, вылучаліся плямёны, якія пераходзілі меркаванне сродкаў існавання ўнутры бацькоўскага роду адбывалася з улікам працоўнага ўкладу сям'і і ў адпаведнасці з яе грамадскім статусам, што парушала былое раўнапраўе. Абшчынная ўласнасць змяншаецца і паступова пераходзіць ва ўласнасць прыватную (асобных сямей). Пры гэтым вялікія сем'і пачалі распадацца, узнікла манагамная сям'я, у якой мужчына-гаспадар валодаў маёмасцю і меў звычайна адну жонку. Некалькі такіх сямей, не абавязкова звязаныя сваяцкімі сувязямі, утваралі сельскую абшчыну, мелі агульную гаспадарку, сумесна абаранялі маёмасць. На замену П. л. прыйшло класавае грамадства, цывілізацыя. На тэр. Беларусі пераход да патрыярхату адбываўся напярэдадні бронзавага веку (2-е тысячагоддзе да н. э.), буйныя патрыярхальныя сем'і статуэткі жанчын і птушак з біўняў мамантаў, выкананыя ў стылі наіўнага рэалізму, пласціны з мамантавых біўняў, аздобленыя разнастайным арнаментам, сярод якіх вылучаюцца канальныя, дзе пераважаюць паралельныя лініі, зігзагі, ромбы і злучаныя шасцівугольнікі, што ўтваралі сотавыя ўзоры (стаянкі *Юдзінава* і *Елісеевічы* Бранскай вобл.). Асаблівую ўвагу звяртаюць меандравыя ўзоры (Мезінская стаянка ў Чарнігаўскай вобл.). На познапалеалітычных стаянках знойдзены разнастайныя ўпрыгожанні, у т. л. падвескі з ракавінак і зубоў жывёл, пацеркі з трубчастых касцей жывёл і вапнавых трубачак марскіх чарв-

коў. Большасць палеалітычных знаходак дэкаратыўна-прыкладнога і выяўленчага мастацтва звязана з першабытным культам плоднасці і паляўнічай магіяй. У познім палеаліце фарміруюцца і зачаткі архітэктуры. Паяўляюцца нізкія купалападобныя або чумападобныя жытлы, умацаваныя буйнымі мамантавымі касцямі і камянямі з доўгачасовымі агнішчамі ў сярэдзіне. Побач з жытламі былі ямы-кладоўкі (Юдзінава, Юравічы, *Бердыж*). Размяшчэнне палеалітычных жытлаў на дрэніраваных мысападобных участках рачных тэрас, іх канструкцыя, буд. матэрыял вызначаліся ўмовамі прыледавіковай зоны.

З эпохі мезаліту (10—7 тыс. г. таму назад), якая характарызавалася інтэнсіўным засяленнем вызваленых з-пад ледавіка тэрыторый, сведчанняў мастацтва мала. Асн. прычына — дрэнная захаванасць касцяных і рагавых вырабаў у пясчанай глебе. На тэр. Беларусі з гэтай эпохі найб. вядома рагавая сякерападобная прылада, багата аздобленая наразным арнаментам, запоўненым белай пастай (Смаргонь). Тыповы і для папярэдняга часу ўзор з косай сеткі і паралельных кароткіх ліній на ёй дапаўняўся зігзагамі і нарэзкамі на гранях. Такія нарэзкі зрэдку трапляюцца і на іншых мезалітычных вырабах — касцяных кінжалах і наканечніках. Насельніцтва таго часу будавала лёгкія буданападобныя жытлы з жэрдак, з адкрытымі агнішчамі-кастрышчамі ўсярэдзіне або знадворку. На бел. Падняпроўі сустракаюцца і паўзямлянкавыя круглаватыя жытлы (*Глыбаўка*).

У неаліце (6—4 тыс. г. таму назад) з далейшым развіццём збіральніцтва, палявання і рыбалоўства, з зараджэннем земляробства і жывёлагадоўлі духоўнае і сацыяльнае жыццё стараж. чалавека ўскладнялася, што знайшло адлюстраванне і ў мастацтве. У гэты час дасягаюць росквіту шмат якія галіны першабытнага дэкаратыўнага і прыкладнога мастацтва — арнаментаванне, аздабленне, гравіроўка на косці, рогу і абпаленай гліне, аб'ёмная скульптура. Некаторыя наканечнікі стрэл, матыкі, касцяныя і бурштынавыя вырабы арнаментавалі паралельнымі нарэзкамі, дробна-ячэістай наразной сеткай, ялінкай, кароткімі краявымі нарэзкамі. Больш разнастайнымі паводле матэрыялу і формы сталі ўпрыгожанні чалавека і яго вопратка (стаянкі Крывінскага тарфяніка, гл. *Галоўск*). Па-ранейшаму шырока выкарыстоўваліся падвескі з зубоў звяроў з прасвідраванымі адтулінамі, пацеркі і пранізкі з распілаваных трубчастых птушыных касцей, плоскія касцяныя падвескі. У той жа час знікаюць характэрныя для палеаліту ўпрыгожанні з ракавінак. Каралі з зубоў жывёл дапаўняюцца касцянымі, часам арнаментаванымі падвескамі — месяцападобнымі, бомбападобнымі складанафігурнымі, з прасвідраваных бабровых сківаў і інш. У якасці аздаблення выкарыстоўвалі касцяныя кольцы, фігурныя і з расшчапаных бабровых іклаў пласцінкі, якія нашывалі на вопратку і галаўныя ўборы, або рабілі з іх бранзалеты. У неаліце на тэр. Беларусі ўпершыню паяўляюцца бурштынавыя ўпрыгожанні: кроплепадобныя, пальцападобныя, сякерападобныя, асіметрычныя падвескі з прасвідраванымі адтулінамі (Крывіна, *Асавец*). Вядомы бурштынавыя гузікі (круглыя, прамавугольныя і двайныя круглыя), цыліндрычныя пацеркі і трубачкі-пранізкі. Знойдзены таксама масіўныя трапецападобныя бурштынавыя падвескі і кольцы. Значнае месца ў П. м. Беларусі эпохі неаліту займаюць антрапаморфныя і зааморфныя выявы, прадстаўленыя гравіроўкай і дробнай пластыкай. Да найб. ранніх з іх адносяцца схематычныя малюнкі людзей на косці (*Старыя Юрковічы*) і качкі на абломку гаршка (Крывіна), утвораныя нарэзкамі і дробнымі наколамі-ямкамі, і кампазіцыя з фігурамі чалавека і качкі на гаршку са стаянкі Юравічы. На кераміцы Бел. Паазер'я адзначаны выявы, якія нагадваюць змей. Гравіраваныя выявы гэтай эпохі характарызуюцца значным схематызмам і стылізацыяй, узоры дробнай пластыкі — рэалістычнай дакладнасцю. Дакладна, з перадачай найдрабнейшых дэталей, зроблены галоўка вадаплаўнай птушкі і падвеска-амулет у выглядзе змяі (гл. *Асавецкія творы першабытнага мастацтва*). Драўляныя і рагавыя скульптуркі галоў барадатых мужчын перадаюць выразнае еўрапеоіднае аблічча позна-неалітычных жыхароў Беларусі. У палеалітычны час, ва ўмовах матрыярхату, у выяўленчым мастацтве дамінавалі жаночыя вобразы. У неаліце, з паступовым складваннем патрыярхальных адносін у грамадстве, іх выцясняюць вобразы мужчын — герояў, правадыроў, духаў, божастваў. На позна-неалітычнай стаянцы Асавец знойдзены найстаражытнейшыя на тэр. Беларусі музычныя інструменты — абломкі птушыных трубчастых касцей з прасвідраванымі адтулінамі (гл. ў арт. *Музычныя інструменты*).

Характэрнай асаблівасцю неаліту з'яўляецца вынаходніцтва глінянага посуду. У раннім неаліце асн. керамічнымі формамі былі вастрадонныя або кругладонныя яйцападобныя вял. гаршкі з пукатымі сценкамі, часам з адзнакамі рабрыстасці. У познім неаліце посуд стаў больш разнастайны. Паявіліся гаршкі з выражанай шыйкай і лейкападобным венчыкам, паўсферычныя невял. міскі, вастрадонныя і пласкадонныя кубачкі. На З Беларусі ва ўжытку некаторых груп насельніцтва з'явіліся шарападобныя пласкадонныя амфары з вушкамі. Арнаменты прасочваюцца ўжо на самых ранніх неалітычных пасудзінах. Напачатку гэта былі глыбокія круглыя ямкі пад краем венчыка, якія дапаўняліся гарызантальнымі паскамі грабеньчатых адбіткаў, насечак або наколаў. Пазней аздабленне ўскладнілася,ваявіліся зоны з глыбокіх ямак, зубчастых адбіткаў, наколаў канцом нахіленай палачкі, адбіткі касцяных трубачак і прамавугольных лапатак, навітага на палачку шнурка і інш. Гэтыя элементы нярэдка ўтваралі ўскладненыя кампазіцыі — косыя, косасеткавыя, зігзагі, ромбы. У канцы неаліту з'явіліся шнуравыя адбіткі, якія ўтваралі хвалістыя або фестончатыя ўзоры. Часам арнаменты дапаўняліся схематычнымі выявамі дрэў і паўзуноў. На неалітычных паселішчах паўд. Беларусі пераважалі наземныя жытлы і паўзямлянкі, на Пн — выцягнутыя ў плане наземныя дамы, двухсхільны дах якіх трымаўся на сохах. На тарфяністых глебах у мэтах проціпажарнай бяспекі агнішчы ў такіх будынках ладзілі на тоўстай пясчанай падсыпцы паверх насцілаў з пластоў кары. У канцы неаліту і ў бронзавым веку (4—2,5 тыс. г. таму назад) з паўсюдным пашырэннем земляробства і жывёлагадоўлі ўзніклі касмаганічныя культы і культы, звязаныя з плоднасцю зямлі. У гэты час самымі распаўсюджанымі былі гравіраваныя ўзоры на кераміцы ў выглядзе трохвугольнікаў, ялінак, дуг, ромбаў з кручкамі, салярных знакаў, якія сімвалізавалі нябесныя свяцілы і з'явы прыроды, плоднасць, паміранне на зіму і веснавое адраджэнне прыроды. Дамінуючымі элементамі арнаментаў сталі адбіткі шнура і насечкі, а ў сярэдзіне бронзавага веку — ружанцавыя адбіткі, наляпныя валікі, station разэнкі. Пераважна пласкадонная кераміка складалася з гаршкоў, жбанкоў, слоікаў, кубкаў, місак, амфар, друшлякоў, якія мелі свае адпаведныя памеры, формы і прапорцыі.

У бронзавым веку па-ранейшаму шырока выкарыстоўваліся ўпрыгожанні з зубоў і касцей жывёл з бурштыну: падвескі, цыліндрычныя пацеркі, трубачкі-пранізкі. З авалоданнем майстэрства выплаўкі і апрацоўкі медзі і бронзы паявіліся даволі разнастайныя металічныя ўпрыгожанні: дыядэмы (плоскія, са звужанымі канцамі, арнаментаваныя краявымі насечкамі), грыўні, бранзалеты, пярсцёнкі, скроневыя кольцы, акулярападобныя падвескі, круглыя бляшкі з адтулінамі, медныя трубачкі. У бронзавым веку на Беларусі ўпершыню паявіліся ва ўжытку шкляныя пацеркі і бісер. Каменным сякерам і булавам гэтага часу шляхам адпаведнага шліфавання надаваліся прыгожыя і часам мудрагелістыя формы, іх упрыгожвалі валікамі. Некаторыя металічныя прылады і зброю таксама аздаблялі рэльефным арнаментам — валікамі, кольцамі, зігзагамі. На Пн Беларусі ў бронзавым веку будавалі наземныя драўляныя жытлы, на Пд — пераважалі прамавугольныя паўзямлянкі са слупамі па вуглах. Часам яны былі двухкамерныя: першая палавіна была гасп. памяшканнем і кухняй, дру-

гая — пакоем для адпачынку. Акрамя жытлаў будавалі наземныя драўляныя культавыя і гасп. збудаванні, сярод якіх трапляліся і круглыя. Агнішчы ў жытлах выкладвалі пераважна з камянёў. Яны мелі роўны чарэнь, што вымагалася пласкадоннасцю кухоннага посуду. Паселішчы гэтага часу набываюць больш рэгулярную планіроўку. Жытлы ставілі пераважна ўздоўж берага вадаёма ў 1 ці 2 рады. Між імі часам прасочваюцца вуліцы-сцежкі. У жал. веку (7—6 ст. да н. э. — 8—9 ст. н. э.) у асноўным развіваліся мясц. традыцыі П. м. Асаблівасцю новай эпохі стала паяўленне слаба- або зусім неарнаментаванай керамікі. Арнамент абмяжоўваўся шэрагам ямак, насечак ці нарэзак пад венчыкам, размешчаных гарызантальнымі паяскамі, трохвугольнікамі або сеткавай кампазіцыяй. У гэты час выраблялі высокія гаршкі з крыху вылучанай шыйкай, бочкападобныя пасудзіны са злёгку адагнутым венчыкам, рабрыстыя міскі, кубкі з вушкамі. Калі ў ранейшыя эпохі керамічныя вырабы выкарыстоўвалі і для гатавання стравы, і для захавання харчовых прадуктаў, то ў жал. веку, з развіццём апрацоўкі дрэва і ткацтва, кераміку выкарыстоўвалі толькі для кухонных спраў. Мусіць, гэта і стала адной з прычын заняпаду арнаменту на кераміцы. Аб'ектам арнаментальнай творчасці стала вопратка з тканіны, якую расфарбоўвалі, вышывалі. Частыя знаходкі на селішчах жал. веку — гліняныя цыліндрычныя, біканічныя, круглавата-выпуклыя праслíцы, многія з якіх арнаментаваны рознымі наколамі, насечкамі, нарэзкамі. Круглыя праслíцы на верацяне найчасцей аздаблялі рознымі акружнасцямі і прамянiстымі фігурамі — салярнымі і каляндарнымі сімваламі. Часам на іх наносілі трохвугольныя ўзоры, ромбы, крыжападобныя фігуры, стылізаваныя выявы жывёл, сцэны апрацоўкі зямлі. Вялікая індывідуалізацыя ўзораў на гэтых вырабах сведчыць, што яны, верагодна, былі знакамі ўласнасці пэўных людзей. У жал. веку пачынаецца сапраўдны росквіт металічных ўпрыгожанняў — медных, бронзавых, жалезных, зрэдку з каштоўных металаў. Распаўсюджанымі тыпамі ўпрыгожанняў вопраткі, конскай збруі былі бранзалеты, грыўні, шпількі-запінкі, падвескі, кольцы, накладкі. Бранзалеты і грыўні з гладкімі, вітымі і рэльефнымі стрыжнямі часта арнаментавалі насечкамі, зігзагамі, кружкамі, трохвугольнікамі, дугамі, кропкавымі ўзорамі. Скроневыя кольцы і пярсцёнкі часцей выраблялі з дроту, сустракаліся і пласціністыя, якія арнаментаваліся. Разнастайнымі былі завушніцы — акулярападобныя, трапецападобныя і інш. Шпількі і фібулы выкарыстоўваліся як рэчы ўтылітарнага прызначэння і адначасова як упрыгожанні. Шпількі мелі завяршэнні ў выглядзе посаха, спіралі, кольца, галоўкі цвіка і інш. Фібулы (спружыністыя шпількі з пласціністым шчытком) аздаблялі нарэзкамі, насечкамі і наколамі. Пашыраны былі і падкавападобныя фібулы з фігурна аформленымі канцамі. Каля 2-га ст. н. э. паявіліся і ўсё часцей сталі ўжывацца вырабы з каляровымі эмалямі — спражкі, запінкі, месяцападобныя і іншыя падвескі (гл. *Абідзенскія эмалі, Тайманава, Малышкі*). Унікальны набор конскай збруі, упрыгожанай серабром з чырвонай эмаллю, знойдзены на селішчы *Красны Бор.* З пачатку жал. веку на Пд Беларусі былі шырока вядомы рознакаляровыя шкляныя пацеркі, у цэнтр. і паўн. Беларусі яны распаўсюдзіліся пазней. Твораў, якія цалкам можна аднесці да выяўленчага мастацтва, на помніках жал. веку знойдзена мала. Сярод іх найб. характэрны гліняныя фігуркі жывёл (пераважна коней) з гарадзішчаў *мілаградскай культуры* на Пд Беларусі. На тэр. Беларусі гэтага часу існавала 2 тыпы паселішчаў — адкрытыя *селішчы*, дзе пабудовы размяшчаліся хаатычна, і *гарадзішчы*, дзе была строгая і прадуманая планіроўка. Жылыя і гасп. будынкі на гарадзішчах размяшчалі па перыметры пляцоўкі, або ў шахматным парадку па самой пляцоўцы. Умацаванне вакол гарадзішча складалася з палісады, равоў і валоў. Для паўд. тэр. Беларусі характэрны былі паўзямлянкі і наземныя будынкі слупавой канструкцыі, на цэнтр. і паўн. тэр. пераважалі доўгія наземныя дамы слупавой канструкцыі з гліняннай абмазкай сцен і з некалькімі жылымі памяшканнямі. Трапляліся тут і невял. прамавугольныя жытлы, а пазней — зрубныя з адкрытымі каменнымі або глінянымі агнішчамі.

*Літ.*: 119, 232, 847. *М. М. Чарняўскі.*

**ПЕРШЫ З'ЕЗД ДАСЛЕДЧЫКАЎ БЕЛАРУСКАЙ АРХЕАЛОГІІ І АРХЕАГРАФІІ.** Адбыўся ў Мінску 17—18.1.1926 па ініцыятыве гісторыка-археал. камісіі *Інстытута беларускай культуры.* Прысутнічалі 36 дэлегатаў і 21 госць. З'езд заслухаў шэраг дакладаў па гіст. спадчыне бел. народа, у т. л. па археалогіі: пра гарадзішчы на тэр. Беларусі (А. М. Ляўданскі), даследаванні стаянак каменнага і бронзавага вякоў у ніжнім цячэнні Сажа (К. М. Палікарповіч), раскопкі 1925 у Навабыхаўскім р-не і на сярэднім Сажы (І. А. Сербаў), вынікі археал. даследаванняў на тэр. Беларусі. Падведзены вынікі гіст. і археал. даследаванняў, вызначаны асн. напрамкі развіцця гіст. навукі, выказаны канкрэтныя прапановы па ўдасканаленні заканадаўства аб ахове помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Выдадзены «Працы Першага з'езда даследчыкаў беларускай археалогіі і археаграфіі» (1926).

*Літ.:* 2156. *В. С. Вяргей.*

**ПЕРШЫ ЎСЕБЕЛАРУСКІ КРАЯЗНАЎЧЫ З'ЕЗД.** Адбыўся 7—11.2. 1926 у Мінску па ініцыятыве Цэнтр. бюро краязнаўства (ЦБК). Прысутнічала 146 дэлегатаў, якія прадстаўлялі Інбелкульт, ЦБК, музеі і 87 краязнаўчых суполак, што аб'ядноўвалі каля 5 тыс. чалавек. З'езд падвёў вынікі краязнаўчага руху ў рэспубліцы, паставіў задачу стварыць краязнаўчае апісанне Беларусі шляхам усебаковага абследавання і вывучэння паасобных яе раёнаў. Даклад аб краязнаўчай працы ў галіне гісторыі і археалогіі зрабіў М. В. Доўнар-Запольскі, аб ахове помнікаў даўніны — М. Мароз. Удзельнікі з'езда пастанавілі: даручыць мясц. краязнаўчым т-вам зарэгістраваць і абследаваць археал. помнікі, звесткі даслаць у Інбелкульт; збіраць у насельніцтва старадаўнія рэчы (прылады працы, зброю, упрыгожанні, манеты) і на аснове сабраных калекцый ствараць мясц. краязнаўчыя музеі; наладзіць ахову помнікаў, у прыватнасці, гарадзішчаў і курганоў. З'езд прыняў рашэнне звярнуцца да адпаведных дзярж. органаў пра выданне закону аб ахове помнікаў гісторыі і культуры. Выдадзены «Працы Першага Усебеларускага краязнаўчага з'езда» (1926).

*Літ.:* 2156. *В. С. Вяргей.*

**ПЕРЫГЛЯЦЫЯЛЬНАЯ ЗОНА,** тэрыторыя вакол ці непасрэдна каля краю ледавіка, усе прыродныя працэсы на якой фарміраваліся пад яго ўздзеяннем. Шырыня П. з. дасягала соцень кіламетраў. Для яе характэрны замерзлы падглебавы слой (вечная мерзлата), травяністая, тундрастэпавая расліннасць і холадаўстойлівая (мамантавая) фауна. Велізарныя паўнаводныя «прарэкі» пракладвалі рэчышчы скрозь нагрувашчванні марэн — жарствы, валуноў, пяску, гліны і ўтваралі надпоплаўныя тэрасы. Клімат быў халодны, ветраны, вільготны на пачатку ледавіковых эпох і сухі пры іх канцы. Спецыфічныя мярзлотныя парушэнні (крыатурбацыі, марозныя кліны і інш.) шырока распаўсюджаны і зафіксаваны археолагамі на палеалітычных стаянках *Бердыж. Юравічы.* Працэсы, што адбываліся пад уздзеяннем ледавіка, вывучае палеагеаграфія шляхам аналізу даных перыгляцыяльнай геамарфалогіі, вывучэння стараж. ландшафтаў, фауны і флоры. У час апошняга (паазерскага) зледзянення тройчы адкладваліся лёсападобныя суглінкі, якія перакрылі стараж. стаянкі

з імі звязаны найбольш урадлівыя лёсападобныя глебы Беларусі. Тэр. Беларусі ўваходзіла ў П. з. 70—12 тыс. г. таму назад.

*Літ.*: 480.

*У. Ф. Ісаенка, А. Г. Калечыц.*

**ПЕСКАЎЦЫ**, стаянкі эпох неаліту, мезаліту і бронзавага веку каля в. Пескаўцы Лідскага р-на.

С т а я н к а-1. За 400 м ад вёскі, на краі высокай правабярэжнай тэрасы Нёмана. Выявіў у 1966 М. М. Чарняўскі. Культурны пласт месцамі таўшч. да 0,5 м.

Знойдзены лістападобныя і трохвугольныя наканечнікі стрэл, укладышы, скрабкі, рубячыя прылады, кераміка з наразным і шнуравым арнаментам. Адносіцца да эпохі мезаліту, бронзавага веку.

С т а я н к а-2. Каля ўсх. ускраіны вёскі, на выступе правабярэжнай тэрасы Нёмана. Выявіў у 1973 А. І. Зімянкоў, даследаваў 40 м$^2$ у 1983 М. М. Чарняўскі. Пл. 120×40 м. Выяўлены рэшткі стаянкі, якія ўтрымлівалі агнішча-кастрышча, крамянёвыя вырабы, кераміку ранняга этапу нёманскай культуры.

*М. М. Чарняўскі.*

**ПЕСКІ**, археал. помнікі каля в. Пескі Мастоўскага р-на.

С т а я н к а-1. За 1 км на ПнЗ ад вёскі, за 300 м ад упадзення р. Матвіца ў Зальвянку, на пясчанай дзюне. Выявіў і даследаваў у 1965 М. М. Чарняўскі. Культурны пласт 0,1 м. Сабраны крамянёвыя прылады працы.

С т а я н к а-2. За 3 км на ПнУ ад вёскі, ва ўрочышчы Гай. Выявіў і даследаваў ў 1969 Чарняўскі. Культурны пласт да 0,5 м. Знойдзены крамянёвыя трохвугольныя наканечнікі стрэл, разцы, рэжучыя прылады працы, фрагменты ляпной керамікі. Адносіцца да нёманскай культуры. Датуецца 3-м тысячагоддзем да н. э.

С т а я н к а-3. За 3,5 км на ПнУ ад вёскі, каля старыцы р. Зальвянка. Выявіў і даследаваў ў 1969 Чарняўскі. Культурны пласт да 0,6 м. Знойдзены крамянёвыя прылады працы, фрагменты керамікі нёманскай культуры. Датуецца 4—3-м тысячагоддзямі да н. э.

С т а я н к а-4. За 300 м на ПдУ ад вёскі, узвышаецца над старыцай р. Зальвянка да 3 м, плошча 120×40 м. Выявіў М. М. Чарняўскі, даследавала ў 1987—88 Н. В. Шаблюк. Культурны пласт да 0,25 м. Знойдзены масіўныя скрабкі, двухпляцовачныя нуклеусы, скоблі, праколкі, нажы, укладышы, трапецыя. Адносіцца, верагодна, да эпохі позняга мезаліту і датуецца 6—5-м тысячагоддзямі да н. э.

С т а я н к а-5. За 800 м на У ад вёскі, на левым беразе Зальвянкі. Выш. над узроўнем вады 4—6 м. Памер 120×40 м. Выявіў у 1985 В. У. Шаблюк, даследавалі ў 1986—89 В. У. Шаблюк і Н. В. Шаблюк. Культурны пласт да 0,35 м. Знойдзены наканечнік стралы, двухпляцовачныя і аднапляцовачныя нуклеусы, праколкі, пракруткі, канцавыя скрабкі, рубячыя і ўкладышавага тыпу прылады. Адносіцца да свідэрскай культуры, датуецца 7—5-м тысячагоддзямі да н. э.

С т а я н к а-6. За 400 м на У ад вёскі, у лесе, на 1-й надпоплаўнай тэрасе. Выявіў ў 1986 В. У. Шаблюк, даследавала ў 1987 і 1989 Н. В. Шаблюк. Культурны пласт да 0,35 м.

Знойдзены матэрыялы эпохі мезаліту: двухпляцовачныя нуклеусы са скошанымі пляцоўкамі свідэрскага тыпу, высокія канцавыя скрабкі, абломак рубячай прылады тыпу «траншэ», фігурны прамень-скобля, праколкі, вял. колькасць адшчэпаў і пласцінак.

С т а я н к а-7. За 1,2 км на ПдУ ад вёскі, на 1-й надпоплаўнай тэрасе правага берага Зальвянкі. Выш. над ўзроўнем вады 1—1,5 м. Выявіла ў 1987, даследавала ў 1987—88 Н. В. Шаблюк. Культ. пласт да 0,25 м.

Знойдзены матэрыялы эпохі мезаліту; канцавыя скрабкі з пласцінак, рэтушаваныя мікрапласцінкі, бакавыя разцы, двухпляцовачныя нуклеусы, адшчэпы і пласціны.

С е л і ш ч а-1. За 1 км на ПнЗ ад вёскі, на левым беразе Зальвянкі. Выявіў у 1976 Чарняўскі, абследаваў у 1978 Я. Г. Зверуга. Культурны пласт 0,3—0,65 м, перакрыты (да 0,4 м) наносным пяском. Знойдзены фрагменты ганчарных гаршкоў, косці свойскіх і дзікіх жывёл.

С е л і ш ч а-2. За 200 м ад моста (уверх па рацэ), на правым беразе Зальвянкі. Выявіла і абследавала ў 1958 Ф. Д. Гурэвіч, абследавалі ў 1973 П. Ф. Лысенка, у 1984 Зверуга. Культурны пласт 0,2—0,6 м, прасочваецца ўздоўж ракі на адлегласці 150 м. Знойдзены фрагменты ляпных і ганчарных пасудзін з дамешкам жарствы ў гліне.

С е л і ш ч а-3. За 800 м на У ад вёскі, на левым беразе Зальвянкі. Пл. каля 3000 м$^2$. Адкрыў у 1984 і даследаваў 2000 м$^2$ у 1985—88 В. У. Шаблюк. Культурны пласт 0,3—0,5 м.

Выяўлены гаспадарчыя ямы, запоўненыя фрагментамі кухоннага посуду і касцямі жывёл. Знойдзены нажы, спражкі, глінянае грузіла, тачыльны брусок.

Датуецца 15—17 ст.

С е л і ш ч а-4. За 400 м на У ад вёскі, на 1-й надпоплаўнай тэрасе левага берага Зальвянкі, на ўзлеску. Выявіў і даследаваў 24 м$^2$ у 1985 В. У. Шаблюк. Культурны пласт 0,3—0,5 м. Знойдзены фрагменты бытавой керамікі 16—18 ст., косці жывёл, бронзавая накладка ад пояса.

*Літ.*: 272, 428.

*М. М. Чарняўскі, Я. Г. Зверуга, В. У. Шаблюк, Н. В. Шаблюк.*

**ПЕТРАГРАФІЧНЫ АНАЛІЗ**, адзін з метадаў петраграфіі, які даследуе рэчыўны састаў, будову і фізічныя ўласцівасці горных парод з мэтай іх дыягностыкі, высвятлення ўмоў фарміравання і наступнага выкарыстання.

Асн. этапы П. а.: г е а л а г і ч н а е  в ы в у ч э н н е горных парод ў прыродных умовах, якое ўключае апісанне іх знешняга выгляду і характару ўзаемаадносін з інш. пародамі; л а б а р а т о р н ы  а н а л і з, які грунтуецца найперш на крышталаграфічных даследаваннях з выкарыстаннем палярызацыйнага мікраскопа, уключаючы фёдараўскі і імерсійны метады (пры неабходнасці выкарыстоўваюцца хімічныя і спектраскапічныя метады для вызначэння хімічнага саставу ў пародах, а таксама менш распаўсюджаныя метады — мікра- і рэнтгенаструктурны, тэрмічны, люмінесцэнтны, электронна-мікраскапічны, ізатопны, мікразондавы і інш.); э к с п е р ы м е н т а л ь н ы я  д а с л е д а в а н н і  і  т э а р э т ы ч н ы я  а б а г у л ь н е н н і, заснаваныя на вывучэнні паводзін штучных сумесяў мінералаў пры іх плаўленні і крышталізацыі ў шырокім дыяпазоне саставаў, тэмператур і ціскаў, што дазваляе зразумець працэсы ўтварэння горных парод у прыродных умовах, ацаніць дакладнасць існуючых навук. тэорый і намеціць шляхі практычнага выкарыстання вынікаў.

Пры археал. даследаваннях П. а. дазваляе вызначыць асаблівасці горнай пароды, якая выкарыстоўвалася для вырабу каменных прылад, выявіць месцы здабычы зыходнай сыравіны і тэхналогію яе перапрацоўкі, шляхі міграцыі прылад і атрымаць звесткі пра характар культурных сувязей у мінулым. З дапамогай радыевугляроднага, іоній-торыевага, фторавага і інш. метадаў можна высветліць па наяўнасці ізатопаў розных элементаў узрост арганічных рэшткаў. Даследаванне гэтымі метадамі пластоў, якія ўтрымліваюць каменныя вырабы і інш. сляды жыццядзейнасці першабытнага чалавека, дазваляе вызначыць час, калі выраблялася рэч, або пахаванне прадметаў матэрыяльнай культуры. Выкарыстанне палярызацыйнага і электроннага мікраскопаў дае магчымасць высветліць тэхналогію вырабу каменных прылад і спосабы перапрацоўкі сыравіны. У ходзе археал. даследаванняў на Беларусі П. а. выкарыстоўваецца для вывучэння каменных сякер і інш. прылад, культавых камянёў, стараж. збудаванняў, керамікі (т. зв. керамічны аналіз). Пры гэтым выяўляюць спосабы апрацоўкі каменю, састаў выкарыстанай сыравіны, месцы яе зыходнага залягання (петралагічная ідэнтыфікацыя), рэжымы абпальвання керамікі (тэмпература, акісляльны ці аднаўленчы характар асяроддзя), тэхналогію вырабу буд. каменю, цэглы, раствору, тынку, фарбаў.

*Літ.*: 362, 1250.

*Э. А. Ляўкоў, І. В. Найдзенкаў.*

**ПЕТРАПО́ЛЛЕ,** паселішча эпохі неаліту *(верхнедняпроўская культура)* і бронзавага веку *(сярэднедняпроўская культура)* каля в. Петраполле Веткаўскага р-на. За 2 км на З ад вёскі, на левабярэжжы р. Сож, за 2—3 км на Пд ад вусця р. Покаць і воз. Крысы, ва ўрочышчы Негацень. Адкрыў у 1926 К. М. Палікарповіч, даследавалі ў 1954 Палікарповіч і Я. Г. Краскоўская, у 1978 А. Г. Калечыц і І. М. Цюрына. Ускрыта 50 м². Культурны пласт каля 0,2 м.

Знойдзены крамянёвыя наканечнікі стрэл, скрабкі, рубячыя прылады, нажы, скоблі, праколкі, свярдзёлкі, адходы крамянёвай вытворчасці і інш., а таксама рэшткі ляпнога посуду, упрыгожанага грабеньчата-ямкавым і лапчастым арнаментам, нарэзкамі, лінейным штампам.

*Літ.:* 863. *А. Г. Калечыц.*

**ПЁТРЫКАЎ,** селішча славян 6—7 ст. на зах. ускраіне г. Петрыкава, на левым беразе р. Прыпяць. Даследавалі ў 1932 А. М. Ляўданскі і А. Д. Каваленя. Выяўлены 3 чатырохвугольныя ў плане жытлы, паглыбленыя ў мацярык. У адным з іх знойдзена печ, складзеная з пліт балотнай руды. У культурным пласце — жалезарудныя шлакі, рэшткі ляпнога посуду (пасудзіны з роўнымі сценкамі, плоскімі донцамі, кароткімі, злёгку адагнутымі венцамі, якія плаўна пераходзяць у высока размешчаныя плечукі). Гэта першае раннеслав. селішча, раскапанае на Беларусі. Аднесена да карчакскага варыянта *пражскай культуры.*

*Літ.:* 641, 717, 720.

**ПЕХ** Георгій Іосіфавіч (17.12.1897, г. Луга Ленінградскай вобл.— 19.5. 1969), беларускі краязнавец і археолаг. Вучыўся ў Свянцянскай гімназіі (1912—15). Працаваў на чыгунцы ў Зах. Беларусі, дырэктарам Ваўкавыскага краязнаўчага музея (1940, 1948—1966), базай для стварэння якога з'явіліся сабраныя ім гісторыка-археал. матэрыялы. У 1940 і 1946—48 заг. гістарычнага аддзела Гродзенскага гісторыка-археал. музея. Удзельнічаў у археал. раскопках Ваўкавыска (1925, 1954—56), Мінска (1946), Турыйска (1961—62). Правёў самастойныя раскопкі ў Ваўкавыску (1948, 1958) і Слоніме (1959). Абследаваў археал. помнікі ў ваколіцах Ваўкавыска (Аменічы, Зубаўшчына, Лазы, Мітрані, Мсцібава і інш.). Сабраў нумізматычную калекцыю.

*Тв.:* Тайна Турейского городища // Сов. Белоруссия. 1962. 23 сент.; Па слядах мінулага (разам з К. Кавальскай) // Гродзенская праўда. 1962. 16 кастр.; Раскопки в Волковыске в 1958 г. // Сов. археология. 1963. № 1; Раскопки древнего Слонима // Древности Белоруссии. Мн., 1966. *Я. Г. Зверуга.*

**ПЕЧ,** глінабітнае або мураванае збудаванне для ацяплення хаты, гатавання ежы, выпечкі хлеба і інш. Адзін з асн. элементаў інтэр'ера нар. жылля. Археалагічна прасочаны ў пабудовах з пачатку 2-га тысячагоддзя н. э. Шырока выкарыстоўваліся ў жылых і гасп. пабудовах перыяду Кіеўскай Русі. П. звычайна ставілі ў адным з кутоў. На Беларусі выяўлены разнастайныя па канструкцыі каменныя і глінабітныя П. Падножжа П. рабілася на грунце або на невял. узвышшы — апечку. Да канца 13 ст. склаўся знешні выгляд П. з ляжанкай. Зроблена спроба рэканструкцыі 2 глінабітных П. Мінская П. 12 ст. ўяўляла сабой топачную камеру, пастаўленую на невял. падножжа з гліны і каменю. Размяшчалася ў правым бліжнім куце ад дзвярэй. Да яе быў прыбудаваны драўляны ляжак для начлегу. Мінская П. 2-й пал. 13 ст. больш дасканалая па канструкцыі. Топачная камера размяшчалася на невял. апечку слупавой канструкцыі. Под П. ўяўляў сабой гліняную пляцоўку. Пад ёй у апечку быў свабодны прамежак для захоўвання посуду. У вуглавым слупе апечка, што ў цэнтры ад сцяны, зафіксаваны 2 урубленыя жэрдкі, прызначаныя для гарызантальнага памоста ляжанкі. Под П. і ляжанкі знаходзіліся на адным узроўні ад зямлі (55—60 см). П. падобнай канструкцыі ставіліся ў Полацку ў 2-й пал. 13 ст.

*Літ.:* 385, 386, 425, 703, 1002, 1346, 1347. *П. А. Русаў.*

**ПЕЧАНЁЖ,** стаянка *сожскай культуры* позняга мезаліту, гл. *Гайкоўка.*

**ПІКА,** зброя бліжняга бою для прабівання металічных даспехаў. На Беларусі вядома з раскопак *Віцебскага Верхняга замка.* Знойдзены наканечнік П. ўяўляе сабой вузкі чатырохгранны стрыжань (даўж. 19,5 см, сячэнне 1×1 см) з полай утулкай (глыб. 6 см, дыям. 2,3 см), якая мае адтуліны пад цвікі, што забіваліся ў дрэўка. Агульная даўж. наканечніка 30 см. Датуецца 15 ст.

*Літ.:* 526, 527, 533. *Л. У. Калядзінскі.*

**ПІКЕТА́Ж** (франц. piquetage нанясенне пунктаў), спосаб пярвічнай апрацоўкі паверхні загатовак каменных вырабаў. Найбольш пашыраны ў канцы неаліту і бронзавым веку, калі выраблялі шмат шліфавальных сякер і іншых каменных прылад працы. Загатоўку спярша фарміравалі мноствам вертыкальных udараў, пасля якіх заставаліся выбоіны. Канчатковую форму рэч набывала пасля другаснай, больш дакладнай апрацоўкі (шліфавання, паліроўкі). Рабочыя ўчасткі *адбойнікаў* у выніку П. набывалі характэрную выбітую паверхню.

*У. Ф. Ісаенка.*

**ПІЛЬВІНЫ,** курганны могільнік каля в. Пільвіны Астравецкага р-на. За 1,3 км на Пд ад вёскі, за 700 м на Пн ад правага берага р. Віліі, у лесе. Захаваліся 22 насыпы дыям. 6—12 м, выш. да 1,6 м, якія цягнуцца з ПнЗ на ПдУ на 280 м. Найбольш буйныя насыпы знаходзяцца ва ўсх. частцы могільніка. Вакол некаторых курганоў ёсць раўкі, а па краях — каменныя вянкі. У канцы 19 ст. тут было 36 насыпаў. У 1895 Ф. В. Пакроўскі даследаваў 14 курганоў і 3 курганападобныя насыпы без слядоў пахаванняў. Пахавальны абрад — трупаспаленне. Рэшткі спаленняў змешчаны на гарызонце або ў насыпе, у адным выпадку на вяршыні. У большасці курганоў выяўлены па 2—3 пахаванні. Побач з касцямі людзей знойдзены конскія косці.

Пахавальны інвентар: жал. нажы, сярпы, шылы, наканечнік кап'я, страмёны, цуглі, спражкі, фібула, гліняныя прасліцы, бронзавыя бранзалеты.

Могільнік належаў балцкаму (усходнелітоўскаму) насельніцтву, датуецца 2-й пал. 1-га тыс. н. э.

*Літ.:* 914. *Я. Г. Зверуга.*

**ПІНСК,** горад, цэнтр Пінскага р-на, у сутоках Піны і Прыпяці, за 175 км на У ад Брэста. Чыгуначная станцыя на лініі Брэст — Лунінец, вузел аўтадарог на Іванава, Івацэвічы, Лунінец, Столін. Рачны порт.

Г а р а д з і ш ч а стараж. П. размяшчалася на левым узвышаным беразе Піны пры ўпадзенні яе ў Прыпяць, складалася з дзядзінца і вакольнага горада. Паводле плана горада 1794, дзядзінец плошчай каля 1,75 га меў авальную форму, па перыметры быў умацаваны абарончымі валамі, у паўн. яго частцы размяшчалася, відаць, абарончая вежа, якая прыкрывала ўезд. З паўд. боку лінія валоў перарывалася; магчыма, схілы дзядзінца, што спускаліся да ракі, былі дастаткова абаронены прыроднымі перашкодамі. Дзядзінец абкружаў дугападобны шырокі роў, які ўпіраўся абодвума канцамі ў раку. У 1926—28 у рове дзядзінца размяшчаўся гар. рынак, для расшырэння рыначнай плошчы ўсх. і паўн. схілы дзядзінца былі зрэзаны. На ўсх. і паўн. участках рова схілы былі тэрасаваны, дно прысыпана і зніверліравана. Зах. і частка паўн. ўчасткаў рова забудаваны, разараны і сёння ўяўляюць сабой шырокую нізіну глыб. да 4—6 м, па дне якой пракладзена вуліца. Пры расшырэнні гар. плошчы паўн. ўчастак рова быў засыпаны, усх. схіл пашкоджаны, на дзядзінцы пабудаваны шматпавярховы дом. Абарончы вал у 1962 прарэзаны раскопам (даследаваў Б. В. Міралюбаў). Яго шыр. ў аснове перавышае 20 м, выш. часткі, што захавалася, 2,5 м. Са знешняга боку вала прасочана некалькі паслядоўных падсыпак, каля ўнутранага боку на пляцоўцы гарадзішча ёсць паглыбленне шыр. каля 10 м, глыб. да 1 м. На мацерыку сабраны фрагменты керамікі 11 ст. У 1954 у час земляных работ ускрыты канструкцыі з паралельных драўляных сцен, злучаных папярочнымі перамычкамі так, што ўтваралі квадратныя клеткі памерам 1,5×1,5 або

2×2 м. Відаць, яны прызначаліся для ўмацавання землянога вала ад апаўзання. Глыбіня рова ў паўн. частцы дзядзінца дасягала 9 м (на такую глыбіню ў 1962 быў закладзены фундамент дома на месцы рова). У 1961 Я. І. Бібікаў і Міралюбаў праводзілі раскопкі дзядзінца. Сярод знаходак — шмат фрагментаў шкляных бранзалетаў, амфар, шыферных прасліц, тачыльных брускоў, а таксама жал. нажы, замкі, сярпы, шпоры, крэсіва, пісала, цясла, дужкі ад вядра, драўляныя днішчы і клёпкі ад бочак, дзвярныя засаўкі, рыдлёўкі, фрагмент ільнамялкі, матыка, малаток, кавалкі скуранога абутку і інш. У 14—18 ст. на тэр. гарадзішча існаваў замак. Гл. таксама *Пінскія ўмацаванні.*

Вакольны горад прымыкаў да дзядзінца паўкальцом шыр. больш за 100 м з усх., паўн. і зах. бакоў, з Пд упіраўся ў р. Піна. Яго межы прасочаны паводле плана 1794, рэльефу мясцовасці, пашырэння культурнага пласта і інш. Даследавалі ў 1955 і 1957 Т. У. Раўдзіна, у 1960—64 Бібікаў і Міралюбаў, у 1963—64 П. Ф. Лысенка. Абарончыя збудаванні прасочаны ў археал. раскопках 1955, пры буд. работах у 1958, 1961, 1963. Яны складаліся з вала і рова, найб. поўна захаваліся з паўн. боку вакольнага горада. За нешырокім (6—7 м), але глыбокім (да 4 м) ровам на выкідзе з яго зямлі былі пабудаваны драўляныя сцены зрубнай канструкцыі (прасочаны бярвёны 10 вянкоў пярэдняй і 5 вянкоў задняй сценкі), што ішлі ўздоўж вала. Пазней тройчы рабілі падсыпку пласта гліны, пасля гэтага насыпалі магутны земляны вал шыр. у аснове да 30 м, выш. 7—8 м, пярэдні схіл якога быў абліцаваны сырой глінай. Блізкія да яго памеры меў вал і з зах. боку. Спераду вала быў роў, які ў катлавіне 1963 меў шыр. да 35 м і глыб. да 7 м (рэканструкцыя па профілі). Планіроўка забудовы прасочана раскопкамі 1963 і назіраннямі за буд. работамі 1963—64. На тэр. вакольнага горада прасочаны 2 вуліцы, якія ішлі ў радыяльным напрамку, і 2 кальцавыя вуліцы, паралельныя валу. Вулічныя маставыя, дваровыя комплексы і пабудовы звычайна размяшчаліся на адным і тым жа месцы на працягу 6—7 буд. ярусаў (трапляюцца да 9 ярусаў). Пабудовы размяшчаліся рэдка, двары даволі вялікія па памерах. У агароджаны парканам двор уваходзілі жылыя і гасп. пабудовы, двор часткова вымошчвалі насцілам з дошак або тонкіх бярвён. Характэрным тыпам жытла былі наземныя аднакамерныя пабудовы зрубнай канструкцыі пл. каля 16 м². Іх рубілі ў просты вугал, злучальныя чашкі і пазы паміж вянкамі высякалі ў верхняй частцы бярвён. Дашчаную падлогу клалі на 2—3 лагі, усечаныя паміж 2-м і 3-м вянкамі. Падмуркамі часта служылі ніжнія вянкі папярэдніх пабудоў, у некаторых жытлах выяўлены развалы глінабітных печаў. У час раскопак знойдзены прылады працы (зубіла, прабойнікі, долаты, свярдзёлак, верацёны, прасліцы, абломак касы, акоўка рыдлёўкі, сашнік, сярпы), узбраенне і рыштунак конніка (наканечнікі стрэл, шпоры), прадметы ўжытку (ключы, замкі, нажы, дужкі ад вёдзер, спражкі, падкоўкі, цвікі і інш.), упрыгожанні (фрагмент бронзавага абразка-складня, бронзавыя, сярэбраныя і шкляныя бранзалеты, фібула, кольца з заходзячымі канцамі, абломак нацельнага крыжа), касцяныя вырабы (дзяржанні, накладкі, утулкі, граблі, гузікі, наканечнікі, розныя загатоўкі і паўфабрыкаты), рэшткі скураных вырабаў (абутак, ножны, футаралы, кашалькі), вырабы з дрэва (рыдлёўкі, вёслы, лыжкі, грабяні, бандарнае начынне), фрагменты ганчарнай керамікі і інш. Знаходкі сведчаць пра тое, што гараджане займаліся жалезаапрацоўчым, ювелірным, касцярэзным, гарбарным, ганчарным, дрэваапрацоўчым і інш. рамёствамі, гандлем, а таксама земляробствам, жывёлагадоўляй, паляваннем, рыбалоўствам, хатнімі промысламі (прадзенне, ткацтва). Знаходкі з ранніх пластоў вакольнага горада сведчаць пра ўзнікненне яго ў 11 ст.



**Абразок з выявай Спаса Эмануіла з Пінска.** 12 ст.



**Фрагмент сярэбранага бранзалета з Пінска.** 12 ст.

П. (летапісны Пинеск, Пиньск) упершыню ўпамінаецца ў «Аповесці мінулых гадоў» пад 1097, калі ўладзімірскі кн. Давыд Ігаравіч папярэджваў вял. кн. кіеўскага пра захоп тураўскіх уладанняў: «Увидишь, займет города твои Туров и Пинск и другие, тогда помянешь меня». Назву атрымаў ад р. Піна. Да сярэдзіны 12 ст. горад Тураўскага княства, з 2-й пал. 12 ст. цэнтр удзельнага Пінскага княства. У летапісах упамінаюцца пінскія князі: у 1183 Яраслаў, у 1190 Яраполк Юр'евічы, у 1204 Уладзімір Пінскі, у 1228 Расціслаў, які спрачаўся з Данілам Раманавічам за г. Чартарыйск. У 1229 названы кн. Уладзімір, які абараняў Бярэсце ад Літвы ў час паходу Данілы і Васілька Раманавічаў на палякаў. У 1262 упамінаюцца пінскія князі Фёдар, Дзямід і Юрый Уладзіміравічы, якія разам з галіцка-валынскім кн. Васільхам Раманавічам святкавалі яго перамогу над літоўцамі. З пач. 14 ст. ў складзе ВКЛ, гандл. горад Трокскага ваяводства. У 1320 належаў Нарымунту (Глебу) Гедымінавічу, з 1348 яго сынам Міхаілу, Васілю і Юрыю. Пазней П. валодаў вял. кн. ВКЛ Жыгімонт Кейстутавіч. У 1471 горад перайшоў да княгіні Марыі з роду Алелькавічаў. У 1521 вял. кн. ВКЛ Жыгімонт І Стары перадаў П. сваёй жонцы Боне. У 1539 цэнтр староства, з 1566 цэнтр павета ў Брэсцкім ваяводстве. У 1581 П. атрымаў магдэбургскае права і герб — на чырвоным полі шчыта залаты лук са стралой і нацягнутай цецівой. Пасля Брэсцкай царкоўнай уніі 1596 у П. ўзнікла праваслаўнае брацтва, якое ў 1633 адкрыла школу. У час антыфеад. вайны бел і ўкр. народаў 1648—54 увосень 1648 паўстаўшае насельніцтва П. разам з казацкім атрадам аказалі ўпартае супраціўленне войску карнай экспедыцыі Я. Радзівіла. Горад быў спалены поўнасцю, а насельніцтва перабіта. У час Паўночнай вайны 1700—21 войскі шведскага караля Карла XII захапілі і разрабавалі П., спалілі яго прадмесце Каралін і ўзарвалі замак старосты кн. М. Вішнявецкага. Паводле 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) П. у складзе Расійскай імперыі.

*Літ.:* 263, 336, 703, 848.

*П. Ф. Лысенка.*

**ПІНСКІ МАНЕ́ТНЫ СКАРБ.** Знойдзены ў Пінску ў 1804. Шляхціц Рыдзеўскі, на зямлі якога быў знойдзены скарб, паднёс Аляксандру І 20 залатых манет: *златнікі* Уладзіміра Святаславіча [980—1015] — 6 экз. (*метрычная проба* 958, *лігатурная маса* 4,40 г; проба 916—958, маса 4,37 г; проба 958, маса 4,35 г; проба 958, маса 4,30 г; проба 958, маса 4,00 г; проба 958, маса 4,09 г); візантыйскія *намісмы* Васіля II [976—1025] і Канстанціна VIII [1025—28] — невядомая колькасць; Рамана IV [1068—71] — 4 ці 5 экз., Нікіфара Ватаніята [1078—81] — 2 экз. і, магчыма, іншых імператараў. Усе златнікі і 6 намісмаў (Рамана IV і нявызначаных *эмітэнтаў*) захоўваюцца ў Эрмітажы, лёс астатніх манет невядомы. Магчымая дата ўхавання — 3-я чвэрць 11 ст.

*Літ.:* 1600, 1607, 1612.

*В. Н. Рабцэвіч.*

**ПІНСКІ МОГІЛЬНІК,** археал. помнік *паморскай культуры* ў паўн.-ўсх. частцы Пінска, вядомай пад назвай Альбрэхтава, на невял. узвышшы левага берага Піны. Плошча могільніка цяпер занята агародамі, жылымі і гасп. пабудовамі. Выявіў у 1963 У. П. Пасавец. На глыб. 1 м ад сучаснай паверхні знойдзена пахаванне па абраду трупаспалення ў урне, якая ўяўляе сабой ляпны збан з невял. плоскім вушкам, а таксама абломкі ляпнога посуду, у т. л. міскі. Побач з гэтым пахаваннем Ю. У. Кухарэнка даследаваў 20 м². Культурны пласт 1,2 м. Знойдзены 2 фрагменты посуду паморскай культуры. Могільнік датуецца 3—2 ст. да н. э., вызначае ўсх. мяжу арэала паморскай культуры. Відаць, могільнік разбураны пасяленцамі 11—12 ст.

*Літ.:* 635.

*В. С. Вяргей.*

**ПІНСКІЯ КУРГАНЫ,** два пахавальныя збудаванні, якія размяшчаліся на ўсх. ускраіне г. Пінска, у прадмесці Лешч, на левым беразе р. Піны. Адзін з іх, меншы па памерах, у 1871 раскапаны дырэктарам мясц. вучылішчаў С. Ф. Куклінскім, звесткі пра раскопкі не публікаваліся. Вядома, што ў кургане знойдзены саманідскі дырхем Нуха, сына Насра, чаканены ў Самаркандзе ў 952—963. Другі курган абследаваў у 1952 Ю. У. Кухарэнка. Насып меў форму ўсечанага конуса выш. 5,5 м з боку поля і 7,5 м з боку ракі, у плане курган няправільнакруглаваты, дыям. асновы з Пн на Пд 31 м, з З на У каля 35 м. У літаратуры вядомы пад назвай Міндоўгава магіла, мясц. назва магіла Войшалка. У 1955 курган разбураны, пясок з яго быў скарыстаны на будаўніцтве стадыёна. На думку Кухарэнкі, у насыпе былі 2 попельныя праслойкі таўшч. 0,1 м на глыб. 1 м ад вяршыні і 0,4 м на глыб. 3 м. Паводле звестак будаўнікоў, на гарызонце ў цэнтры кургана знаходзілася шмат буйных абгарэлых бярвён і попелу. Супрацоўнік музея Б. В. Міралюбаў знайшоў рэшткі вогнішча, а ў ім перапаленыя косці жывёл і птушак, а таксама жал. цвік, пласцінку ад панцыра і абломкі нейкіх жал. рэчаў. Можна меркаваць, што пахаванне было зроблена на гарызонце пад цэнтр. часткай насыпу па абраду трупаспалення. Не выключана, што рэшткі нябожчыка былі змешчаны ў якімсьці драўляным збудаванні. Зверху над пахаваннем насыпаны курган выш. каля 3 м, на вяршыні яго складзены памінальны касцёр. Пасля гэтага курган падсыпалі яшчэ двойчы і зноў рабілі памінальны касцёр. П. к. адносяцца да надзвычай рэдкіх вял. пахавальных помнікаў канца 10 — пач. 11 ст. тыпу вял. чарнігаўскіх курганоў (Чорная магіла, Княжая магіла). Яны былі, хутчэй за ўсё, пахавальнымі збудаваннямі мясц. князёў або ваенных правадыроў.

*Літ.:* 639.

*П. Ф. Лысенка.*

**ПІНСКІЯ ЎМАЦАВАННІ.** Існавалі ў 14—18 ст. Складаліся з замка і гар. умацаванняў сярэдневяковага *Пінска.*

Замак размяшчаўся на гарадзішчы старажытнага Пінска, на левым беразе р. Піна. У вопісе горада за 1561—66 згадваецца толькі адна «вежа Владычная», якая стаяла асобна ў паўн. частцы замкавых умацаванняў, злева ад уезда, на штучным земляным узвышэнні, з'ўлялася як бы драўляным данжонам, дазорнай вежай з прыступнага боку, што пільнавала браму і ўезд у замак. Акрамя брамы з пад'ёмным мостам перад ёй у лініі абароны стаялі яшчэ не менш як 3 вежы, назвы якіх невядомы. Перыметр замкавых умацаванняў складаў 0,5 км. Пра канструкцыю абарончых сцен замка звесткі адсутнічаюць. Аднак з павіннасцей сялян замкавай воласці вынікае, што яны абавязаны былі даглядаць менавіта гародні, вартаваць замак, даваць падводы. Мяшчане разам з царкоўнікамі таксама выконвалі замкавую работу — рубілі замак і паркан, даглядалі абарончы роў, масты. Сярод пінскіх пушкароў на працягу доўгага часу ўпаміналіся Пархвенавічы. Яшчэ ў 1524 яны атрымалі прывілей ад каралевы Боны і спалучалі «пушкарство» і «золотарство» (прафесію ювеліра). У мірны час у замку пастаянна размяшчаліся невял. гарнізоны салдат на чале з ротмістрамі, забеспячэнне якіх цалкам ляжала на плячах гараджан. У перыяд вайны дзейнічалі законы магдэбургскага права аб усеагульнай абароне.

Гарадскія ўмацаванні падпарадкоўваліся радыяльна-кальцавой планіроўцы Пінска і складаліся з 2 ліній абароны. Першая лінія ў выглядзе вала, паркана і рова ахоплівала сетку радыяльных вуліц, якія адыходзілі ад замка, і дугой упіралася ў высокі бераг Піны, уключаючы фактычна тэр. горада 11—13 ст. Вал перарываўся 4 брамамі. На З стаяла брама Уладычная, да якой падводзіла дарога ад загараднай рэзідэнцыі «ўладыкі пінскага». Можна меркаваць, што яе, як і аднайменную замкавую вежу, будавалі на грошы ўладыкі. Далей у вале стаялі брамы цэнтральная Меская, Траецкая і Спаская, названыя па аднайменных цэрквах. Па краі берага ракі замест вала ішоў драўляны паркан, які спускаўся ў абарончы роў. Агульная даўж. 1-й лініі абароны складала 1,4 км. На тэрыторыі, заслоненай гэтым паўкальцом умацаванняў, размяшчаліся традыцыйныя для гарадоў з магдэбургскім правам рынак з крамамі, ратуша, жылыя пабудовы, студня. У найб. адказных месцах абароны — каля гар. брам і на подступах да замка — стаялі манументальныя будынкі манастыроў і цэркваў: каля Спаскай брамы — францысканскі кляштар з магутнай мураванай агароджай і вуглавымі вежамі, на У ад замка — Богаяўленскі манастыр і кляштар езуітаў, на З ад Уладычнай брамы — кляштары базыльян, марыявітак, кармелітаў і Маркаўскі манастыр. Другая лінія абароны, т. зв. «астрог», даўж. каля 2 км таксама ўпіралася ў бераг Піны. Яна ўключала 4 брамы: Берасцейскую на З, Віленскую на Пн, Северскую і Лешчынскую на ПнУ. На З і ПнЗ перад валам ішоў штучны абарончы роў, які на ПнУ і У пераходзіў у прыродны з працякаючым па дне ручаём, т. зв. «Каралінскай канавай». Тут, паблізу гар. брам, таксама канцэнтраваліся кляштары бернардзінцаў, дамініканцаў і Богаяўленскі манастыр, якія ўзмацнялі вузлы гар. абароны. З У горад прыкрываўся Лешчынскім манастыром і комплексам умацаванняў *Каралінскага замка.* Перад кожнай брамай быў пад'ёмны мост, перакінуты цераз абарончы роў. Паводле магдэбургскага прывілея 1581, з кожнага, хто ўязджаў у Пінск, браўся падатак, прычым «доходы и пожитки с мостов у брамах Пинских стоячих» ішлі на патрэбы горада.

У перыяды ваенных дзеянняў брамы Пінска дадаткова ўмацоўваліся «рагаткамі», каля іх ставіліся ўзмоцненыя атрады гараджан. У час аблог і штурмаў Пінска ўсё насельніцтва выходзіла на яго абарону. За сваю доўгую гісторыю Пінск перажыў не адно ваеннае ліхалецце. У 1158 ён вытрымаў 10-тыднёвую асаду і штурмы войск кааліцыі 6 князёў на чале з кіеўскім кн. Ізяславам Давыдавічам. Зімой 1527 да сцен Пінска па скаваных марозам балотах і Прыпяці падышлі крымскія татары. Горад ім узяць не ўдалося, а падаспеўшае войска гетмана ВКЛ К. Астрожскага нанесла татарам моцнае паражэнне. Паводле дакументаў, у антыфеад. вайну укр. і бел. народаў 1648—54 жыхары Пінска, за невял. выключэннем, поўнасцю «паказачыліся» і 8.10.1648 адчынілі брамы горада ўкр. казакам. Пазней, у час аблогі і штурму Пінска каралеўскім войскам, мяшчане з жонкамі і дзецьмі як «на гвалт» беглі да астрога, забраўшы камяні з лазняў і знёсшы да гар. сцен насечаныя дровы. Яны білі праціўніка, хто чым мог: з ружжаў, косамі, палкамі, камянямі і інш. У выніку падзей 1648 гар. ўмацаванні моцна пацярпелі. У 1652 сейм Рэчы Паспалітай абавязаў жыхароў Пінска тэрмінова аднавіць валы і прывесці ў парадак усю амуніцыю. У рус.-польскую вайну 1654—67 Пінск, знаходзячыся ў глыбокім тыле і цяжка даступнай мясцовасці, на некаторы час апынуўся ў баку ад ваенных дзеянняў. У 1654 тут стаяў гарнізон з 700 чал. пінскай шляхты, было 3 тыс. ўзброеных мяшчан. 25.9.1655 да Пінска прыплыў атрад рус. ваяводы Д. А. Валконскага, які высадзіўся на бераг і ўступіў у бой. Валконскі захапіў горад і

ўтрымліваў яго 2 дні, пасля чаго адступіў і адплыў у Кіеў. Пры гэтым рускія забралі з сабой 2 бронзавыя трохфунтовыя гарматы, а горад і навакольныя слабоды спалілі. У 1660—1664 Пінск неаднаразова асаджалі ўкр. і рус. атрады, якія 25.6.1660 узялі яго штурмам. У выніку рус.-польскай вайны гар. абарончыя збудаванні былі моцна разбураны. У 1673 сейм Рэчы Паспалітай адзначыў, што «пагранічнае места Пінск не мае вартай фартыфікацыі супраць непрыяцельскай інкурсіі, якой ён падвяргаецца разам з паветам», а таксама заклікаў пінчукоў умацаваць горад агульнымі намаганнямі ўсіх жыхароў. Усе 3 лініі абароны Пінска (замак, «перакоп», «астрог») захаваліся да канца 18 ст. Апошні раз яны згадваюцца ў інвентары Пінскага староства за 1783. Пазней, на працягу 19 ст., гар. ўмацаванні былі паступова знівеліраваны. *М. А. Ткачоў.*

**ПІСА́ЛА,** стыло (грэч. stylos), прыстасаванне для пісьма ў выглядзе стрыжня даўж. 8—13 см, завостранага на адным канцы і з лапатачкай на другім. На Русі вядомы з 10 ст. касцяныя, з 11 ст. і металічныя П. (з жалеза, бронзы). Вострым канцом П. пісалі на бяросце або на спец. дошчачцы — *цэры*. Лапатачкай разгладжвалі воск і сціралі напісанае. Насілі ў вузкіх скураных футаралах, падвешаных да пояса. Жалезныя П. пакрывалі (лудзілі) цынкам або меддзю. Стрыжні бронзавых П. амаль па ўсёй даўжыні перакручаны. Лапаткі мелі форму кубачка (раннія), пяцівугольніка ці авала са зрэзаным верхам, перавернутага трохкутніка (пазнейшыя). У аснове лапатачкі жал. П. было шарападобнае патаўшчэнне («яблыка») або 2—3 валікі. Зрэдку лапатачка мела дэкор у выглядзе зубцоў па баках, інкрустацыю або крыжападобныя прорэзі пасярэдзіне. Верхнюю частку П. з косці часам аздаблялі выявай жывёлы або фантастычнай істоты (цмока). На Беларусі П. знойдзены ў Навагрудку (14), Ваўкавыску (12), Мінску (7), Бярэсці (5), у Полацку, Браславе і Слуцку (па 2), Тураве, Пінску, Копысі і Друцку (па 1). Ужываліся да 15 ст.

*Літ.:* 268а, 429а, 761. *Л. У. Калядзінскі.*

**ПІСА́НКІ,** гліняныя паліваныя яйкі-бразготкі, аздобленыя геаметрычным узорам жоўтага, зялёнага, радзей карычневага колеру на бурачорным, бура-карычневым і цёмназялёным фоне. У 11—12 ст. пашыраны ў Кіеве, Ноўгарадзе і інш. стараж.-рус. гарадах. На Беларусі знойдзена 5 П. кіеўскага (Брэст, Гродна, Ваўкавыск, Лукомль, Мсціслаў) і 1 наўгародскага паходжання (Навагрудак).

*Літ.:* 726. *В. Б. Перхайка.*

**ПІСЬМО́,** сістэма графічнай фіксацыі і перадачы вуснай мовы на адлегласці і замацавання яе ў часе. Узнікла на базе вуснай мовы, з'яўляецца дадатковым да яе сродкам зносін паміж людзьмі. Звычайна вылучаюць 4 асн. тыпы П.: піктаграфічнае, ідэаграфічнае, складовае, літарна-гукавое (фанемаграфічнае ці алфавітнае). Існуюць і інш. класіфікацыі тыпаў П.

Першапачатковым этапам развіцця П. з'яўляецца піктаграфія — малюнкі, нанесеныя на камень, гліну, дрэва з мэтай перадачы інфармацыі. Піктаграмы, высечаныя ці намаляваныя на скалах, называюць пятрогліфамі або пісаніцамі. На аснове піктаграфіі ўзнікла ідэаграфічнае П., у якім графічныя знакі перадаюць паняцці. Вышэйшы этап развіцця ідэаграфіі — іерагліфічнае П. Складовым называецца П., у якім кожны графічны знак абазначае асобны склад. У літарна-гукавым П. кожны графічны знак абазначае асобны гук. Найб. старажытнымі з вядомых сістэм П. з'яўляюцца шумерская, протаэламская і протаіндыйская, егіпецкая, крыцкая, якія ўзніклі ў 3—2-м тысячагоддзях да н. э. На паселішчы Тэртэрыя ў Румыніі знойдзены гліняныя таблічкі з надпісамі, якія нагадваюць шумерскае П., але старэйшыя за яго на тысячу гадоў. Да літарна-гукавога тыпу адносілася фінікійскае П., якое існавала на ўсх. узбярэжжы Міжземнага мора. На яго аснове ў 9—8 ст. да н. э. ўзнік грэчаскі алфавіт, які ў сваю чаргу паслужыў асновай для лацінскага алфавіта і кірыліцы. Першапачатковыя звесткі пра славянскую азбуку адносяцца да 2-й пал. 9 ст. Яе ўзнікненне звязваецца з імёнамі слав. асветнікаў Кірыла і Мяфодзія. Прыкладна ў гэты час узнік і другі слав. алфавіт — глаголіца, які атрымаў значна меншае за кірыліцу распаўсюджанне. Існуе гіпотэза пра тое, што П. існавала ў славян і да Кірыла і Мяфодзія. У канцы 9 ст. балгарскі чарнарызец Храбр пісаў: «Прежде убо словене не имеху книг, но чертами и резами чьтеху и гадааху» (г. зн. славяне не мелі кніг, але пры дапамозе рысак і рэзаў чыталі і гадалі). Пра існаванне самабытнай пісьменнасці ў славян пісалі раннесярэдневяковыя арабскія і нямецкія падарожнікі. Лінгвістычныя даныя таксама сведчаць пра існаванне лексікі, звязанай з П. і кнігамі, яшчэ ў праславянскія часы. Шэраг помнікаў невядомай пісьменнасці выяўлены археолагамі на ўсх.-слав. тэрыторыі (надпісы на гліянянай пасудзіне 10—11 ст., знойдзенай у в. Аляканава б. Разанскай губ., на гаршках з б. Цвярскога музея і 2 брактэатах з курганоў каля в. Корчава на Волзе). Ёсць звесткі пра незразумелыя надпісы на камені ў б. Бежыцкім пав. Цвярской губ. і на костцы барана з чарнігаўскіх курганоў. Некалькі таямнічых надпісаў знойдзена і на Беларусі. Г. Х. Татур паведамляў пра знаходку ў мяст. Пагост (цяпер Бярэзінскі р-н) каменнай пліты з нерасшыфраванымі знакамі, «падобнымі на адбіткі птушыных лапак».



**Пісалы** з Браслава і Друцка.



Да арт. **Пісанкі.** Яйка-пісанка 12—13 ст. з Лукомля.

Камяні з надпісамі, зробленымі знакамі невядомага П., выяўлены каля в. Пнеўшчына Горацкага і в. Сынковічы Зэльвенскага р-наў. Багаты матэрыял далі раскопкі ў Драгічыне Надбужскім. У 10—14 ст. тут знаходзілася вял. мытніца, свайго роду вароты з Захаду ва Усх. Еўропу. Знойдзеныя шматлікія свінцовыя пломбы служылі таварнымі знакамі ўсх.-слав. князёў. На адным баку некаторых пломбаў змешчана літара кірылічнага алфавіту, на другім — таямнічы знак. Даследчыкі мяркуюць, што гэта літара невядомага стараж.-слав. П. На некаторых пячатках-пломбах, знойдзеных у Віцебску, таксама ёсць нерасшыфраваныя знакі, падобныя на літары. На гарадзішчы *Маскавічы* выяўлены косці 12—13 ст. з малюнкамі і надпісамі, частка знакаў якіх адпавядае скандынаўскім рунам, частка не расшыфравана. Знакі ў надпісах час ад часу паўтараюцца і групуюцца ў 43 разнавіднасці, якія могуць адпавядаць нейкаму невядомаму алфавіту. Аналогіі маскавіцкім знакам ёсць на знаходках у Мінску. На медальёне-змеявіку з Ваўкавыска з абодвух бакоў нанесены пакуль нерасшыфраваныя літарападобныя знакі. Адзін з самых ранніх кірылічных надпісаў нанесены на гліняную пасудзіну, знойдзеную недалёка ад Смаленска, датуецца пачаткам 10 ст. На пячатцы полацкага кн. Ізяслава (памёр у 1001), якая выяўлена пры раскопках у Ноўгарадзе, таксама ёсць надпіс. На Беларусі кірылічнае П. адносна шырока ўжываецца з 11—12 ст. Да 16 ст.

адносяцца першыя тэксты на бел. мове, запісаныя лацінскім алфавітам. Беларускія татары карысталіся арабскім П. для стварэння кніг на старабел. мове.

*Літ.:* 221, 468, 850. *Э. М. Зайкоўскі.*

**ПЛАВІЛЬНЯ,** на ***манетным двары*** цэх, у якім рыхтавалі сплавы золата і серабра адпаведнай ***пробы*** для вырабу манет, атрымлівалі чыстыя высакародныя металы, перапрацоўвалі адходы («крохі») манетнай вытворчасці. Спачатку працавала на патрэбы двара і таксама заказчыкаў, пазней — толькі для двара і часткова выконвала функцыі пробнага нагляду. Манетныя двары, якія не мелі П., атрымлівалі манетныя кружкі-паўфабрыкаты цэнтралізавана (напр., ***Брэсцкі манетны двор*** у 1665—66).

**ПЛАВІНСКІ** Аляксандр Мікалаевіч (н. 9.1.1952, Мінск), беларускі археолаг. Скончыў БДУ (1976), дзе працуе з 1975, з 1987 дырэктар музея гісторыі ун-та. Прымаў удзел у археал. даследаваннях Мінска, Рагачова, гарадзішча ***Вішчын***, курганных могільнікаў ***Ветачка, Гадзілавічы, Каласы, Мадора, Цагельня, Юдзічы*** Гомельскай вобл., ***Гаравец, Навасёлкі, Наўры, Таўкачэвічы 1-я*** Мінскай вобл. Вывучае пахавальны абрад раннефеад. часоў, займаецца рэстаўрацыяй і кансервацыяй археал. знаходак. Адзін з аўтараў навучальнага дапаможніка «Гістарычнае краязнаўства Беларусі» (1980).

*Тв.:* Раскопки курганов у д. Юдичи // Древнерусское государство и славяне. Мн., 1983; Курганный могильник у д. Колосы // Древности Литвы и Белоруссии. Вильнюс, 1988.

*А. А. Егарэйчанка.*

**ПЛАНІГРАФІЯ** (лац. planum паверхня, плошча + graphō пішу) у археалогіі, апісанне паверхні зямельнага ўчастка, археал. помніка і інш. Праводзіцца з мэтай вызначэння адначасова існаваўшых západзін, штучных насыпаў, рэшткаў пабудоў, месцаў рознага функцыянальнага прызначэння (жытлаў, майстэрняў, магіл, ям для адходаў, культавых месцаў і інш.) і збору матэрыялу па аб'ектах. Вывучаецца асобна на кожным гарызонце або пласце. Часам у ходзе П. выяўляюцца ўчасткі з рознačасовымі рэчамі. Прычыны такой анамаліі высвятляюцца шляхам падзелу матэрыяльных рэштак па ўмоўных хранагалагічных пластах, праводзіцца «гарызантальная» ***стратыграфія***.

*У. Ф. Ісаенка.*

**ПЛАСЦІНА** крамянёвая, плоскі доўгі адшчэп з паралельнымі краямі. Першыя П. датуюцца канцом эпохі ***мусцье***, знікаюць у пач. ранняга жал. веку. Выраблялі са спецыяльна падрыхтаванага ***нуклеуса***. Выкарыстоўвалася першабытным чалавекам як самастойная прылада працы (нож, скобля, укладыш і інш.), служыла таксама загатоўкай для вырабу наканечнікаў стрэл, пракалак, разцоў, скрабкоў і інш.

**ПЛАТА** (ад швед. plåter пліта), квадратная або прамавугольная медная пліта, якая з-за недахопу серабра ў 17 ст. выкарыстоўвалася ў якасці своеасаблівай паўнавартаснай манеты. На ёй звычайна з аднаго боку ставілі клеймы круглага штэмпеля (некалькі клеймаў на вялікіх П., адно — на меншых). Большая частка П. была выпушчана ў каралеўстве Швецыі ***Авесцкім манетным дваром*** у 1644—1776 наміналамі ў 10, 8, 5, 4, 3, 2, 1 і $^1/_2$ шведскага далера. У 1644 П. ў 10 далераў была памерам 33×62,5 см масай 19,72 кг. Яе намінальная вартасць адпавядала гандл. кошту металу на 80—90 %, а казённаму кошту—на 45—50 %. У 17 ст. П. складалі $^3/_4$ аб'ёму ўсёй манетнай масы, было выраблена больш за 42 млн. П. на суму 18,4 млн. далераў з 44 тыс. т. медзі. Біметалізм медзі і серабра не замацаваўся з-за вагання адносін гэтых металаў (у 1611—90:1, 1649—82:1, 1660—54:1, 1666—76:1, 1674—65:1, 1715—36:1). На працягу 17 — 1-й трэці 18 ст. вытворчасць П. перавышала вытворчасць звычайнай меднай манеты, у 1730—44 пачаўся рост вытворчасці манеты, у 1745—68 выраб манет наблізіўся да вырабу П. і перавысіў яго. Пасля афіцыйнага выключэння П. з манетнай сістэмы ў 1776 вытворчасць іх працягвалася да канца 18 — пач. 19 ст. для экспарту ў невял. колькасцях, але з датамі мінулых гадоў. У 1-й пал. 18 ст. выпускалі аднолькавую колькасць П. наміналам у 4, 2, 1 і $^1/_2$ талера. У 1678—1776 стварыліся значныя банкаўскія запасы П. рэзерв звычайных медных манет ад якіх складаў 5—10 %. У 17—18 ст. П. выкарыстоўваліся для экспарту медзі. У 1714 у Каралеўстве Данія выпушчана пробная П. ў 1 марку. У Расіі на ўзор Швецыі выраблялі П. 1725—27 на Екацярынбургскім манетным двары па стапе 10 руб. з пуда медзі, 4-фунтовыя — у 1 рубель (1725—26, маса 1638,05 г), 2-фунтовыя — у палціннік (1726, маса 819,03 г), фунтовыя — у паўпалціннік (1725—26, маса 409,51 г), грыўню (1725—27, маса 163,80 г), 5 капеек (1726, маса 81,90 г), капейку (1726, маса 16,38 г). Да ўласна П. адносяцца звышцяжкія рубель, палціннік і паўпалціннік, а грыўня, 5 капеек і капейка — хутчэй да ***кліп***, хаця ўсе наміналы называліся П. На П. наміналам ад рубля да грыўні наносілі 4 круглыя клеймы з выявай двухгаловага арла, арнаментаваныя дыяганальна верхам у вуглах пліты, і ў цэнтры — круглае кляймо з наміналам, датай і пазначэннем месца вырабу. 5 капеек і капейка мелі 1 круглае кляймо ў цэнтры з выявай двухгаловага арла і радковай ***легендай*** з пазначэннем наміналу, даты і месца вырабу. У Эрмітажы захоўваецца П. рубель 1725 з мемарыяльным надпісам — **первая плита из меди верхотурских и ляпинских заводов которые строены при воеводе господине клемешеве**. У пач. 1890 сустракаюцца грубыя падробкі П.-грыўняў з характэрнымі асаблівасцямі: дэфармацыя краёў П. ў месцы накладання клеймаў, вялікая розніца заглыблення клеймаў на адной манеце адносна паверхні поля.

*Літ.:* 1005, 1515, 1516, 1615, 1620, 1739. *І. І. Сінчук.*



Выява **плавільні** на рэверсе пробнага $^1/_2$ талера 1771 Станіслава Аўгуста Панятоўскага.

**ПЛАЎКА,** працэс перапрацоўкі матэрыялаў, пераважна металаў, з атрыманнем канчатковага прадукту ў вадкім стане. На Беларусі першыя П. рабілі пры адліўцы вырабаў з бронзы, у ***тыглях***. Для разліўкі металу ў формы выкарыстоўваліся ***льячкі***. Металургія жалеза доўгі час праводзілася без плаўкі, у ***домніцах***. У познім сярэднявеччы пачалі выплаўляць чыгун з руды ў доменных печах, потым у пудлінгавых печах (фрышэрках) перапрацоўвалі яго ў жал. крыцы. Гэты працэс называўся крычнай перапрацоўкай. Значная частка атрыманага чыгуну ішла на адліўку гармат і ядраў для іх, гасп. прадметаў. П. чыгуну праводзілася ў вагранках.

**ПЛЕЙСТАЦЭН** (грэч. pleiston найбольшы + kaina новы), першая, найбольш стараж. і працяглая частка сучаснага геалагічнага перыяду (гл. ***Антрапаген***), якая адпавядае эпосе кайназойскага зледзянення. Напачатку П. адбылося агульнапланетарнае пахаладанне клімату, з'явілася адпаведная фауна малюскаў і буйных жывёл. Перыядычна ўзнікалі покрыўныя зледзяненні (у т. л. на тэр. Беларусі), якія змяняліся міжледавіковымі эпохамі. Дата пачатку П., паводле даных розных геахраналагічных метадаў даследавання (перш за ўсё калійаргонавага), знаходзіцца паміж 3,5 і 1,3 млн. г. таму назад. Канцом П. лічыцца час скарачэння апошняга (паазерскага) ледавіка да пачатковага становішча, што адбылося прыкладна 8300 г. да н. э. Колькасць (3—6) і датаванне зледзяненняў і міжледавіковых эпох у П. ацэньваюцца па-рознаму. Адным з найб. дакладных лічыцца вызначэнне, заснаванае на астранамічнай тэорыі ледавіковых эпох, паводле якой кожнаму буйному мінімуму сонечнай радыяцыі адпавядае асобная ледавіковая эпоха. Паводле уніфікаванай стратыграфічнай схемы,

зацверджанай у 1981, на Беларусі вылучаюцца ледавіковыя адклады беларускага, бярэзінскага, дняпроўскага, сожскага і паазерскага зледзяненняў і адпаведных белавежскага, александрыйскага, шклоўскага і муравінскага міжледавікоўяў.

*Літ.:* 224, 966а. *А. Г. Калечыц.*

**ПЛЕ́МЯ,** тып этнічнай і сацыяльнай арганізацыі людзей, уласцівы для першабытнаабшчыннага ладу і пераходнага перыяду да класавага грамадства. Племянныя супольнасці ўзніклі ў эпоху развітога радавога грамадства ў выніку аб'яднання некалькіх экзагамных родаў, звязаных агульнасцю этнагенетычнага паходжання, асноўных элементаў гаспадаркі, звычаяў і абрадаў, міфалогіі і культаў, адзінствам дыялекту і племянной саманазвы, якія грунтаваліся на агульнай сама-свядомасці. У археалогіі П. і яго тэрыторыя вызначаюцца на падставе распаўсюджання агульных элементаў матэрыяльнай і духоўнай культуры, якія характарызуюць асаблівасці племяннога рассялення, гасп. дзейнасці, звычаяў і абрадаў. З часоў мезаліту на тэр. Беларусі жылі П. *грэнскай культуры, нёманскай мезалітычнай культуры, сожскай культуры*; у неаліце — *верхнедняпроўскай культуры, дзяснінскай культуры, днепра-данецкай культуры, лейкападобных кубкаў культуры, нёманскай культуры, нарвенскай культуры, тыповай грабеньчата-ямкавай керамікі культуры, шарападобных амфар культуры*; у бронзавым веку — *лужыцкай культуры, паўночнабеларускай культуры, прыбалтыйскай культуры, сосніцкай культуры, сярэднедняпроўскай культуры, тшцінецкай культуры, шнуравой керамікі Палесся культуры*; у жал. веку — *банцараўскай культуры, днепра-дзвінскай культуры, зарубінецкай культуры, калочынскай культуры, кіеўскай культуры, мілаградскай культуры, паморскай культуры, штрыхаванай керамікі культуры*. На позніх этапах развіцця першабытнаабшчыннага ладу і пераходу да класавага грамадства (у эпоху т. зв. ваеннай дэмакратыі) П. аб'ядноўваліся ў буйныя сацыяльна-палітычныя супольнасці — саюзы П., якія характарызаваліся адзінай уладай, агульнасцю гасп.-культ. комплексу, тэрыторыі і інш. Саюзы П. мелі своеасаблівую сістэму самакіравання (нарады радавых старэйшын, агульныя сходы, ваенныя і грамадскія правадыры), адзіны рэлігійны культ, у дачыненні да суседзяў часта выступалі пад адзінай назвай. У межах саюзаў П. узмацняліся моўныя і культурныя сувязі паміж асобнымі, часам някроднаснымі і рознаэтнічнымі П., ішлі працэсы іх змешвання і трансфармацыі ў новыя, адпаведныя класаваму грамадству, этнасацыяльныя супольнасці — народнасці. У раннім сярэднявеччы на тэр. Беларусі існавалі слав. племянныя



**Плата.** 1726: 1. Капейка: 2. 5 капеек; 3—4. Грыўня; 5—6. Палціна, 1725; 7. Рубель з мемарыяльным надпісам.

аб'яднанні *дрыгавічоў, радзімічаў* і мяшаны славяна-балцкі саюз *крывічоў*, на аснове якіх пазней пачала складвацца бел. народнасць. На З тэр. Беларусі — Пабужжы і Панямонні — у той час жылі балцкія П., аб'яднаныя разам са славянамі ў саюзы *яцвягаў* і *літвы*, якія таксама прынялі актыўны ўдзел у этнагенезе і этнічнай гісторыі беларусаў, часткова літоўцаў і палякаў. Рэшткі б. саюзаплемянных, племянных, родава-абшчынных адносін і арганізацый, паводле даных археалогіі і этнаграфіі, захоўваліся ў побыце, культуры, міфалогіі, культах, звычаях і абрадах насельніцтва Беларусі ў час развіцця феад. адносін і панавання хрысціянства. У грамадскіх навуках, літаратуры і публіцыстыцы тэрмін «П.» доўгі час ужываўся ў сэнсе народ, этнас.

*Літ.:* 155, 816, 848, 1007, 1052, 1211, 1251, 1256, 1388. *І. У. Чаквін.*

**ПЛІ́НФА** (ад грэч. plinthos цагліна), шырокая і плоская абпаленая *цэгла*. Для яе ўласціва квадратная (пазней прамавугольная) форма і невял. (да 4—5 см) таўшчыня. У Кіеўскую Русь П. пачалі завозіць у 10 ст. візантыйскія дойліды. На Беларусі П. упершыню выкарыстана ў муроўцы *Полацкага Сафійскага сабора* (11 ст.). Пазней П. выраблялі ў месцах пабудоў. Мураваныя пабудовы з выкарыстаннем П. ўзводзіліся ў Полацку, Віцебску, Гродне, Тураве, Навагрудку і інш. стараж. гарадах. У 12 ст. адначасова ўжывалася П. двух і болей памераў. Адзін з памераў П. быў у муроўцы асноўным, а іншыя складалі 20—30 % ад агульнай колькасці. Для архіт. дэталей (пілястры, лапаткі і інш.) выкарыстоўвалі трапецападобную і паўкруглую П.

Выраблялі П. ў спец. формах з драўляным дном. Пра гэта сведчаць адбіткі дошак на гліне. Каб пазначыць сваю прадукцыю, цагельнікі выразалі ў бакавых сценках і на дне драўляных форм знакі. Полацкая і віцебская П. мела знакі на тычках і адным з шырокіх бакоў, а гродзенская — толькі на тарцах. Полацкія і віцебскія цагельнікі пазначалі сваю прадукцыю таксама спец. штампамі, якія пакідалі паглыбленыя сляды — клеймы, альбо меткамі, зробленымі трэскай ці інш. вострым прадметам. Знакі на П. мелі выгляд літар, крыжыкаў, трызубцаў, стрэлак і інш. Часам на П. сустракаюцца розныя малюнкі, надпісы. Абпальвалі П. ў спец. печах, складзеных з цэглы. Яны былі напольнымі ці ў схіле пагорка.

У 2-й пал. 13 ст. П. ў бел. дойлідстве змяніла буйнапамерная брусковая цэгла.

*Літ.:* 1218. *А. А. Трусаў.*

**ПЛІ́ТКА ДЭКАРАТЫ́ЎНАЯ,** керамічны выраб для аздаблення інтэр'ераў і экстэр'ераў будынкаў. Выраблялі ў драўляных формах, пасля сушкі і абпалу маглі пакрываць эмалямі (11—12 ст.) або празрыстай палівай (16—18 ст.). У 13—18 ст. шырока ўжываліся непаліваныя пліткі. На тэр. Беларусі з 11 ст. вядомы маёлікавыя пліткі для насцілання падлог. Асабліва пашыраны ў 12 ст. Мелі надзвычай разнастайныя формы, квадратныя, трохвугольныя, трапецападобныя, пяляёсткападобныя, круглыя, кольца- і дугападобныя, складанапрафіляваныя. Выяўлены пры раскопках у Полацку, Віцебску, Друцку, Мінску, Лагойску, Тураве, Гродне, Навагрудку. Пры аздабленні Барысаглебскай (Каложскай) царквы ў Гродне выкарыстана не меней як



**Плінфа** 12 ст. са знакамі.





**Плінфа** 12 ст. з клеймамі.

17 варыянтаў форм плітак; паліхромныя ўстаўкі керамічных плітак былі галоўным мастацкім сродкам у дэкаратыўным вырашэнні яе фасадаў. Знойдзены П. д. 13 ст. з рэльефным малюнкам (Гродна). У Пінску сабрана калекцыя, якая мае таксама 17 форм П. д. Гл. арт. *Мазаіка, маёліка.* *І. У. Ганецкая.*

**ПЛО́МБА** (ням. Plombe ад лац. plumbum свінец), кавалачак свінцу з адбіткам *пячаткі*, якім апламбоўваецца той ці інш. прадмет. Стараж. П. адрозніваюцца ад віслых пячатак (гл. *Була*) невял. памерамі (1—1,5 см) і прызначэннем. П. «наўгародскага тыпу» служылі малымі пячаткамі пасаднікаў (канец 11—13 ст.). Найб. распаўсюджаны П. «драгічынскага тыпу», якіх у Драгічыне Надбужскім выяўлена некальк тысяч.

Шырока бытуе меркаванне, што П. прывешвалі да цюкоў з таварамі, якія



Гаршкі 11 ст. з курганнага могільніка Плусы.

вывозілі на знешні рынак, што гарантавала іх захаванасць. На думку некаторых даследчыкаў, на Русі ўжываліся «футравыя» грошы. П., што прывешвалася да вязкі футраў, надавала ім значэнне грошай. На тэр. Беларусі П. «драгічынскага тыпу» (больш за 20 экз.) выяўлены ў Віцебску, Тураве, Брэсце, Полацку. У Віцебску знойдзены свінцовыя П. з выявамі на знешнім і адваротным баках адпаведна св. Пятра і літары «Ж», невядомага святога і літары «Л», святога з паднятымі рукамі і расквітнеўшага 6-канцовага крыжа, святога і 4-канцовага крыжа з промнямі, з двума нахіленымі крыжамі, св. Міколы і літары «Д». На адной П. захаваўся надпіс «Пётр». У час археал. раскопак у Полацку ў пласце 1240-х г. знойдзена П. з выявай святога Барыса ці Глеба, а на адваротным баку — расквітнеўшага крыжа.

*Літ.:* 147а, 366, 799, 1363. *Г. В. Штыхаў.*

**ПЛУ́СЫ,** селішча і курганны могільнік крывічоў каля в. Плусы Полацкага р-на.

С е л і ш ч а. На паўн.-зах. ускраіне вёскі, на зах. беразе воз. Суя. Памер 150×190 м. Выявіў і абследаваў у 1965 Г. В. Штыхаў. Зной-

дзены рэшткі ганчарнай керамікі, бронзавы злітак у выглядзе палачкі даўж. 7 см і крыжык з патоўшчанымі канцамі. Датуецца 11—13 ст.

Курганны могільнік. За 150 м на ПдЗ ад вёскі, на зах. беразе воз. Суя, ва ўрочышчы Барок. 38 насыпаў выш. 0,7—2 м, дыям. 6—10 м. Насыпаны на месцы паселішча 5—7 ст. Даследаваў 14 курганоў у 1965, 1967 Штыхаў. У адным пахавальны абрад — трупапаленне, у астатніх — трупапалажэнне галавой на З у дамавіне ў прамавугольных ямах глыб. 0,3 м. Знойдзены бронзавыя бранзалеты, пярсцёнкі, бразготкі, шкляныя пацеркі, нажы, гаршкі і інш. У З курганах пахаванні не выяўлены. Датуецца 10 — пач. 12 ст.

*Літ.:* 1331, 1332. *Г. В. Штыхаў.*

**ПЛЯ́ТАР** (Броэль-Плятар) Адам Аўгусцінавіч (15.6.1790, г. Краслава, Латвія — 13.1.1862), археолаг, краязнавец, калекцыянер. Скончыў Віленскі ун-т (1817). Чл. Кракаўскага навук. т-ва (1821), Віленскай археал. камісіі (1856). Куратар школ Дынабургскага пав. Віцебскай губ. Падарожнічаў па Зах. Дзвіне. Апісваў помнікі археалогіі, стараж. архітэктуры, гіст. мясціны, *Барысавы камяні* [«Аб старажытных камянях з надпісамі, знойдзеных у рацэ Дзвіна (12 ст.) каля Полацка і Дзісны», 1843]. Пры абследаванні стараж. паселішчаў Падзвіння знайшоў самы даўгі сашнік з выяўленых на той час у Еўропе (в. Канецполе Люцынскага пав.), каля в. Франопаль Люцынскага пав.— стараж. меч. Вывучаў пахаванні ў курганах на славяна-балцкім сумежжы, для чаго выкарыстоўваў запісаны ім жа фальклор (легенды, паданні, памінкі, галашэнні, абрады, звычаі і інш.). У сваім доме ў Краславе стварыў музей, бібліятэку, архіў. Сабраў шмат матэрыялаў з Падзвіння, частку якіх перадаў Віленскаму музею старажытнасцей (у 1919—20 антыкварыят перавезены ў Коўна). Яго рукапісныя матэрыялы часткова захоўваюцца ў бібліятэцы Віленскага ун-та. Друкаваўся ў час. «Rubon» («Рубон»), «Athenaeum» («Атэнэум»), «Przyjaciel Ludu» («Сябар народу») і інш.

*Тв.:* O Dynaburskim starym zamku // Rubon. 1843. T. 3; O dawnych grobach i starożytnościach odkrytych w Inflantach Polskich // Там жа. 1845. T. 5.

*Літ.:* 511, 513. *Г. А. Каханоўскі.*

**ПЛЯЦЕ́ННЕ,** спосаб вырабу рэчаў злучэннем палос эластычнага матэрыялу пад прамым ці косым вуглом; від рамяства. Вядома з неаліту, папярэднічала *ткацтву* і вязанню. У 12—14 ст. існавала тэхніка *іголкавага пляцення.* Матэрыялы для П.— лаза, салома, чарот, мачала, карані дрэў, лыка, бяроста, скура, лучына, ніткі, конскія валасы, дубцы арэшніку, ядлоўцу і інш. Для П. выкарыстоўвалі драўляныя, касцяныя і жал. прыстасаванні. Стараж. ўзоры П. дрэнна захаваліся. Выяўлены рэшткі сплеценых з лыка сетак, адбіткі плеценых вырабаў на гліне. Вядома, што з бяросты і лыка плялі лапці і рыбалоўныя снасці, з ільняных нітак — рыбалоўныя сеткі, са скуры — абутак, паясы, шнуркі, з шарсцяных і льняных нітак — паясы і бранзалеты.

*Літ.:* 662, 691. *Л. У. Дучыц.*

**ПО́БАЛЬ** Леанід Давыдавіч (н. 28.5. 1924, в. Мікалаева Іўеўскага р-на), беларускі археолаг. Д-р гіст. навук (1978), прафесар (1990). Чл. Міжнар. уніі славянскай археалогіі, Польскага археал. т-ва, Бел. т-ва аховы помнікаў. Скончыў ін-т фізічнай культуры (1950), БДУ (1951). У 1950—55 працаваў ва ўстановах нар. асветы. З 1958 супрацоўнік Ін-та гісторыі АН БССР; з 1970 заг. сектара, з 1980 заг. аддзела археалогіі, у 1986—91 — археалогіі першабытнага грамадства, з 1991 вядучы навук. супрацоўнік. Асноўны кірунак навук. дзейнасці — вывучэнне гісторыі стараж. славян у Еўропе, у т. л. на Беларусі. У 1959—81 вывучаў помнікі позняга этапу зарубінецкай культуры (2-я пал. 1—5 ст. н. э.). Даследаваў абарончыя ўмацаванні гарадзішчаў 6—7 ст. да н. э.— 1—2 ст. н. э., паўзямлянкавыя і наземныя жытлы гарадзішчаў і селішчаў 3 ст. да н. э. Узначальваў археал. экспедыцыі па вывучэнні ранняга жал. веку Беларусі. Вывучаў унікальны скарб упрыгожанняў 2—4 ст. з серабра і бронзы, аздобленых каляровымі выемчатымі эмалямі, знойдзеных у 19 ст. на селішчы *Красны Бор.* Знайшоў і даследаваў больш за 100 *фібул* 3—1 ст. да н. э. (эпоха латэн) і бронзавых *лунніц* з каляровымі *эмалямі,* знойдзеных на селішчах Абідня і *Тайманава.* Даказаў мясц. паходжанне на тэр. Беларусі ў першых стагоддзях н. э. сярэбраных і бронзавых упрыгожанняў з выемчатымі эмалямі.



Л. Д. **Побаль.**

*Тв.:* Славянские древности Белоруссии: (ранний этап зарубинецкой культуры). Мн., 1971; Славянские древности Белоруссии: (могильники раннего этапа зарубинецкой культуры). Мн., 1973; Славянские древности Белоруссии: (свод археологических памятников раннего этапа зарубинецкой культуры — с середины III в. до н. э. по начало II в. н. э.). Мн., 1974; Археологические памятники Белоруссии. Железный век. Мн., 1983.

*Т. М. Каробушкіна.*

**ПО́ГРАБ,** гаспадарчая пабудова для захоўвання прадуктаў харчавання, пераважна караняплодаў і гародніны. Як яма ў мацерыку вядомы з глыбокай старажытнасці. У пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца ў 1067 у «Аповесці мінулых гадоў». П. сучаснага варыянту выяўлены ў час раскопак Полацкага Верхняга замка (памер зруба 0,8×1,2 м; канец 14—17 ст.) і Віцебскага Ніжняга замка (памер зруба 1×1 м; канец 16 ст.).

**ПОЗНАЛЕДАВІКО́ЎЕ,** адрэзак чацвярцічнага перыяду (гл. *Антрапаген*) у гісторыі Зямлі ад моманту, калі ледавік апошняга паазерскага (валдайскага) зледзянення пачаў адступаць, утварыўшы шэраг канцавых марэн (на тэр. Беларусі атрымалі назву браслаўскіх), да пачатку *галацэну.* Датуецца прыкладна 14—10 тыс. г. таму назад. Пачаўся з нязначнага па памерах раўніскага пацяплення (13 700—13 200 г. таму назад). На працягу наступнага белінгскага (13 000—12 200 г. таму назад), больш значнага пацяплення, ад ледавіка выслабанілася паўд. частка Балтыйскага мора. На тэр. сучаснай Беларусі шырока распаўсюдзіліся бярозава-хваёвыя (на Пн і ў цэнтр. частцы) і хваёвыя (на Пд) лясы, але клімат заставаўся даволі халодным. У наступным, яшчэ больш цёплым прамежку часу — аляродзе (12 000—10 800 г. таму назад) знікла вечная мерзлата, ледавік адступіў за межы Паўд. Фінляндыі. На ўсёй тэр. Беларусі шырока распаўсюдзіліся бярозава-хваёвыя і яловыя лясы (з дамешкам на Пд шыракалістых парод). На думку вучоных, тэмпература паветра ў ліпені ў гэты час была толькі на 2 °С ніжэй за сучасную. Прамежкавыя пахаладанні атрымалі адпаведна назвы дрыяс І, ІІ, ІІІ. На працягу апошняга ў позналедавіковым перыядзе пахаладання дрыяс ІІІ (10 800—10 300 г. таму назад) на тэр. Беларусі існавалі даволі халодныя ўмовы, раслі лясы паўночнатаежнага тыпу, а ўчасткі паміж імі былі заняты тундрава-стэпавымі ландшафтамі. Не адбылося значных змен толькі на Палес-

сі. Сярэдняя тэмпература лета была да +10 °C, зімы −25 °C. На працягу П. на тэр. Беларусі адбываліся працэсы тэрмакарсту, узніклі тысячы азёр, сфарміраваліся ўступы 4 і 3 (у басейнах рэк Паазер'я) і 1 (у басейнах рэк Дняпра) надпоймавых тэрас, пачалося ўтварэнне шматлікіх мацерыковых дзюн. З часоў алярода ўся тэр. Беларусі стала прыдатнай для жыцця чалавека, і, з'явіўшыся тут, ён ужо ніколі яе не пакідаў. Археал. рэшткі гэтага часу належаць фінальнапалеалітычным плямёнам — носьбітам арэнбургскай, *свідэрскай культуры* і *грэнскай культуры*. З канцом П. звязана шырокае рассяленне першабытных плямён не толькі па ўсёй тэр. Беларусі, але і пранікненне іх далёка на Пн.

*Літ.:* 936. *А. Г. Калечыц.*

**ПОЛАЦК,** горад, цэнтр Полацкага р-на, на Зах. Дзвіне пры ўпадзенні ў яе р. Палаты (адсюль назва). За 100 км ад Віцебска, вузел чыгунак і аўтадарог. Аэрапорт.

Найбольш стараж. паселішчамі, адкуль пачынаўся Полацк, з'яўляюцца *Полацкае гарадзішча* (дзядзінец), *Полацкае селішча*, якія ўзніклі на берагах Палаты. У 11 ст. дзядзінец горада перанесены на правы бераг Зах. Дзвіны пры ўпадзенні ў яе Палаты. Пазней тут закладзены *Полацкі Верхні замак* (назву атрымаў пасля ўзвядзення ў 16 ст. *Полацкага Ніжняга замка*). На тэр. Верхняга замка ў сярэдзіне 11 ст. пабудаваны *Полацкі Сафійскі сабор*, у 12 ст. *Полацкі княжацкі храм* і княжацкія палаты. Мураваныя храмы і *Полацкія манастыры* ахоўвалі горад з Пн, Пд і З. У 14 ст. заселены левы бераг Зах. Дзвіны. У 16 ст. акрамя Верхняга і Ніжняга замка планіровачную структуру горада вызначалі пасады ўздоўж берагоў Зах. Дзвіны і Палаты: *Полацкі Вялікі пасад, Полацкі Запалоцкі пасад*, Востраўскі, Якіманскі, Крыўцоў, Слабадскі (уздоўж р. Бельчыца). У горадзе было каля 80 вуліц і завулкаў. У ваколіцах размяшчаліся неўмацаваныя *Полацкія паселішчы-спадарожнікі*. П. з'яўляўся важным стратэгічным пунктам і меў развітую сістэму ўмацаванняў (гл. *Полацкія гарадскія ўмацаванні*). У 16 ст. пабудаваны драўляныя будынкі (пазней мураваныя) калегіума езуітаў. У 17—18 ст. у горадзе існавала мноства мураваных манастыроў, кляштараў і касцёлаў: Багаяўленскі манастыр (у 17 ст. пры ім дзейнічала брацтва і школа), касцёл і кляштары бернардзінцаў, дамініканцаў, францысканцаў, манастыр базыльян.

П. (летапісныя П о л о т е с к, П о л о т ь с к, П о л т е с к, паводле скандынаўскіх саг Palltesjuborg) — адзін з самых стараж. гарадоў усх. славян. Упершыню ўпамінаецца ў «Аповесці мінулых гадоў» пад 862. Заснаваны крывічамі. Хуткаму развіццю горада спрыяла размяшчэнне яго на гандл. шляху з Рыжскага заліва да Кіева і Чорнага мора, праз вярхоўі Зах. Дзвіны і Волгі да краін Усходу. Значэнне горада як найважнейшага цэнтра транзітнага гандлю ў 9—11 ст. пацвярджаюць знаходкі скарбаў арабскіх (у 1973 знойдзена каля в. Казьянкі каля 8 тыс. сярэбраных дырхемаў) і зах.-еўрап. манет (гл. ў арт. *Полацкі манетна-рэчавы скарб*). У 10—13 ст. П.— цэнтр буйнога княства, якое належала прадстаўнікам самастойнай дынастыі князёў Рагвалодавічаў. Былі развіты кавальскае, ювелірнае (гл. *Полацкі рэчавы скарб*), касцярэзнае, ганчарнае, шавецкае і інш. рамёствы. Каля 980 у П. княжыў Рагвалод (забіты кіеўскім кн. Уладзімірам Святаславічам, які сілай узяў у жонкі яго дачку Рагнеду), з 988 — Ізяслаў Уладзіміравіч, з 1003 — Брачыслаў Ізяславіч. Пры Усяславе Брачыславічу [1044—1101] П. дасягнуў найб. росквіту, стаў гал. канкурэнтам Кіева. У 12 ст. тут працаваў майстар-ювелір Лазар Богша і дойлід Іаан, сфарміравалася самабытная *Полацкая архітэктурная школа*. З 1105 (магчыма, раней) існавала самастойная епіскапская кафедра. У 12—13 ст. актыўна дзейнічала Полацкае веча, якое апіралася на апалчэнне гараджан. У пач. 13 ст. жыхары П. разам з лівамі, латгаламі, эстамі гераічна змагаліся супраць ням. крыжакоў, якія ўварваліся ў Прыбалтыку і захапілі гарады Полацкай зямлі Герцыке і Кукенойс. Дружыны полацкага кн. Уладзіміра неаднойчы выступалі супраць нямецкіх рыцараў (1203, 1206, 1216). Полацкае баярства, якое баялася актыўнасці гараджан і агрэсіі крыжакоў, пайшло на кампраміс з літоўскімі феадаламі і ў 2-й пал. 13 ст. запрасіла іх на княжанне ў горад. У 1262—63 тут княжыў Таўцівіл. З 1307 П. канчаткова ў складзе Вял. кн. Літоўскага. У 14—16 ст. самы вял. горад у ВКЛ, меў асобыя прывілеі, гандляваў з Рыгай, Лівонскім ордэнам, Ноўгарадам, Псковам, Масквой і інш. гарадамі. У «Хронікі Польшчы» пад 1382 П. названы замкам (крэпасцю) Белай Русі. У 1-й пал. 14 ст. ў П. княжыў Воін, потым Нарымунт (у крышчэнні Глеб), у 2-й пал. 14 ст. Андрэй Полацкі (сын вял. кн. ВКЛ Альгерда). З 1382 горадам кіравалі намеснікі. У 1498 П. атрымаў магдэбургскае права, быў створаны магістрат. З пач. 16 ст. П.— цэнтр ваяводства. З 16 ст. вядомы герб П.— у блакітным полі трохмачтавы карабель з ветразямі. У час Лівонскай вайны 1558—83 П. у 1563—79 займалі рус. войскі. Потым горад вярнуў у ВКЛ Стэфан Ба-



Свінцовая віслая пячатка (тыльны бок) Усевалада Яраславіча. **Полацк.** 11 ст.



Залаты пярсцёнак 12 ст. з **Полацка.**



Металічная паясная пласціна з выявай Сергія Раданежскага. **Полацк.** 14—15 ст.



Рэшткі дома рамесніка 13 ст. ў **Полацку.**

торый. У час руска-польскай вайны 1632—34 у П. ў 1633 адбылося паўстанне гараджан. У час руска-польскай вайны 1654—67 ён заняты рус. войскамі, але паводле Андрусаўскага перамір'я 1667 вернуты Рэчы Паспалітай. У 2-й пал. 17 — 1-й пал. 18 ст. П. заняпаў. У 1772 да Расіі адышла правабярэжная, у 1793 — левабярэжная частка горада. З 1776 П.— цэнтр губерні, у 1778—96 — намесніцтва, з 1796 цэнтр павета Беларускай, з 1802 — Віцебскай губ. У 1796 для перачаканкі расійскіх манет быў запланаваны *Полацкі манетны двор.* Найважнейшым падзеям гісторыі горада прысвечаны экспанаты *Полацкага краязнаўчага музея,* аб старажытным П. расказвае *Полацкі гісторыка-культурны запаведнік.*
*Літ.:* 360, 927, 1347. *Г. В. Штыхаў.*

**ПО́ЛАЦКАЕ ГАРАДЗІ́ШЧА,** першапачатковы дзядзінец *Полацка.* На правым беразе р. Палата, за 800 м ад упадзення яе ў Зах. Дзвіну. Узнік як гарадзішча масавага тыпу на левым беразе Палаты (першапачатковая пл. 1 га, цяпер — каля 0,8 га). Выявіў і даследаваў у 1928 А. М. Ляўданскі, даследавалі ў 1960, 1962 Г. В. Штыхаў, у 1989 С. В. Тарасаў. Культурны пласт ад 2 да 4,5 м, моцна пашкоджаны могілкамі 19 ст., добра захаваўся па краях пляцоўкі. Выяўлены матэрыялы *днепра-дзвінскай культуры,* умацаванае паселішча крывічоў 9—10 ст. У сярэдзіне 11 ст. дзядзінец Полацка быў перанесены на правы бераг Зах. Дзвіны пры ўпадзенні ў яе Палаты (пазней *Полацкі Верхні замак*), гарадзішча паступова прыйшло ў заняпад, з 12 ст. яго тэр. выкарыстоўваецца пад гар. могілкі. Пасля захопу Полацка рус. войскамі ў 1563 з фартыфікацыйнымі мэтамі было пракапана новае русла Палаты, якое аддзяліла гарадзішча ад збудаванага ў гэты час *Полацкага Ніжняга замка.* У выніку П. г. апынулася на правым беразе Палаты.
*Літ.:* 1151, 1347. *С. В. Тарасаў.*

**ПО́ЛАЦКАЕ СЕ́ЛІШЧА,** Полацкае перадграддзе. Размешчана каля *Полацкага гарадзішча,* на правым і левым берагах р. Палата. Як і гарадзішча, найб. стараж. частка паселішча, адкуль пачынаўся *Полацк.* Агульная пл. каля 6,3 га. Правабярэжная частка размешчана на мысе каля Чырвонага моста, пл. 0,25 га. Выявіў у 1962 і даследаваў 420 м² у 1962, 1967, 1979 і 1980 Г. В. Штыхаў. Культурны пласт 0,6—1,2 м.

Знойдзены ляпны і ганчарны посуд, рэшткі металаапрацоўчай майстэрні 10 ст., тыглі для плаўкі каляровых металаў, абрэзак сярэбранай арабскай манеты. Левабярэжную частку селішча (тэр. сучаснага стадыёна «Спартак» і прылеглая тэрыторыя, агульная пл. 6 га) выявіў у 1986 і даследаваў 470 м² у 1988—90 С. В. Тарасаў. Культурны пласт 0,8—3 м. Знойдзены рэшткі наземных жылых і вытворчых пабудоў, ляпны посуд 8—9 ст., рэшткі ювелірных майстэрняў 10 ст., у т. л. майстэрня па вырабу шкляных пацерак і апрацоўцы каляровых металаў. Выяўлена шмат ювелірных інструментаў і прылад працы: ювелірныя пінцэты, кавадлачка, набор гірак-разнавагаў, імітацыйная ліцейная форма для манетападобнай прывескі ў форме арабскага дырхема і інш.
*Літ.:* 1151, 1356. *С. В. Тарасаў.*



Фрагмент пячной кафлі 16 ст. з выявай скамароха. **Полацк.**



**Полацкае гарадзішча.**

**ПО́ЛАЦКАЯ АРХІТЭКТУ́РНАЯ ШКО́ЛА,** самабытная школа дойлідства, якая сфарміравалася ў 12 ст. ў Полацкім княстве. Склалася ў культавым будаўніцтве на аснове традыцый візантыйскай архітэктуры, пад уплывам першага манументальнага збудавання на тэр. Беларусі — *Полацкага Сафійскага сабора.* У пабудовах П. а. ш. адбыўся адыход ад візантыйскіх крыжова-купальных шматнефавых структур з некалькімі апсідамі: будынкі выцягнутыя ў плане, бакавыя нефы больш вузкія, дамінуе сярэдняя апсіда, бакавыя апсіды знадворку не выяўлены і найчасцей схаваны ў тоўшчы алтарных сцен. Адметная рыса П. а. ш.— з'яўленне храма вежападобнай канструкцыі, што яскрава назіраецца ў *Полацкай Спаскай царкве,* некаторыя архіт. формы якой атрымалі далейшае развіццё ў *Полацкім княжацкім храме.* Для П. а. ш. характэрна муроўка з плінфы са «схаваным радам», якая ўтварала двухколерную гаму паверхні сцяны, радзей — з чаргаваннем слаёў плінфы і вапняку. Асн. тыпы культавых збудаванняў: аднанефавыя бесслуповыя з адной апсідай і бабінцам (Пятніцкая царква *Бельчыцкіх храмаў);* 3-нефавыя 6-слуповыя з 3 апсідамі, выяўленымі знадворку (Вялікі сабор Бельчыцкіх храмаў); 3-нефавыя 4- або 6-слуповыя са схаванымі бакавымі апсідамі (Спаская царква, Барысаглебская царква Бельчыцкіх храмаў). Шэраг храмаў меў абходныя галерэі. Рысы П. а. ш. маюць і выяўленыя на Вялікім пасадзе ў Полацку рэшткі «Царквы на ірве» і княжацкага храма-пахавальні. Для некаторых помнікаў П. а. ш. характэрна размяшчэнне падкупальнага квадрата не над усх., а над зах. парамі слупоў, што надавала кампазіцыі будынкаў цэнтрычнасць. Гэтаму спрыяла і канструкцыйна-дэкаратыўная сістэма перакрыцця падкупальнага квадрата ступеньчатымі аркамі і ўтварэнне кубічнага пастамента барабана гал. купала, аздобленага знадворку 3-лопасцевымі аркамі. Прадстаўнік П. а. ш. дойлід Іаан — аўтар Спаскай царквы ў Полацку. Полацкія дойліды ўдзельнічалі ў будаўніцтве Навагрудскай Барысаглебскай царквы, заклалі падмуркі *Мінскай замкавай царквы,* будавалі ў Ноўгарадзе, Смаленску. П. а. ш. зрабіла вял. уплыў на далейшае развіццё архітэктуры Беларусі і зямель Русі 12—16 ст.
*Г. В. Штыхаў, Ю. А. Якімовіч.*

**ПО́ЛАЦКАЯ СПА́СКАЯ ЦАРКВА́,** Спаса - Праабражэнская царква, Спаса-Ефрасіннеўская царква, помнік стараж. архітэктуры. Адносіцца да *По-*

лацкай архітэктурнай школы. Пабудавана паміж 1152—61 на высокім беразе Палаты, за 2,5 км ад *Полацкага Верхняга замка* як саборны храм Полацкага Спаса-Ефрасіннеўскага манастыра. У 19 ст. часткова перабудавана. Храм даследавалі ў 1884 Д. Струкаў, у 1923 М. Брунаў, у 1926, 1946 І. Хозераў, у 1946—47 Я. Ашчэпкаў, у 1976 П. Рапапорт, Г. Штэндар.

Царква — невялікі (8×12 м) мураваны прамавугольны 3-нефавы аб'ём. Цэнтральны неф завершаны масіўнай паўкруглай апсідай, вельмі вузкія бакавыя нефы (цяжар асновы барабана кладзецца на 6 падкупальных слупоў) — паўкруглымі нішамі ў тоўшчы сцяны. Сцены былі выкладзены з плінфы ў тэхніцы мuроўкі «са схаваным радам». Памер плінфы 4×23×24—30 см, некаторыя шыр. 17—20 см, на тарцах са знакамі. Падмурак складзены з невял. камянёў без раствору (глыб. каля 1 м). Першапачаткова царква мела пазакамарнае пакрыццё асн. аб'ёму і больш нізкага нартэкса, якое ў 19 ст. заменена 3-схільным дахам. Старажытным закамарам адпавядаюць 3 паўкружжы на паўд. і паўн. фасадах. У выніку даследавання кубічнага пастамента, на якім трымаюцца барабан і купал храма, устаноўлена, што грані пастамента былі аздоблены трохлопасцевымі какошнікамі кілепадобнай формы, выкананымі з бітай плінфы на растворы. Для мацавання какошнікаў быў узведзены спец. каркас з пастаўленых на рабро цаглін. Над вугламі пастамента прасочаны дыяганальныя какошнікі такой жа формы. Дзякуючы гэтым аздабленням будынак храма нагадваў шмат'ярусную вежу. Над вокнамі былі цагляныя ліштвы. Унутры ў зах. сцяне — лесвіца на хоры (асаблівасць полацкай архіт. школы), па баках хораў — 2 маленькія келлі. Падлога была выкладзена палiванымі керамічнымі пліткамі. Сцены і слупы сабора размаляваны фрэскамі, якія закрыты напластаваннямі тынку і пазнейшай алейнай размалёўкай. Рэстаўратары адкрылі некалькі фрэсак. Работы старaж. мастакоў 12 ст. вызначаюцца рэалізмам, індывідуальнасцю характарыстык, суровай экспрэсіяй. Для іх характэрна творчая перапрацоўка візантыйскіх канонаў, збліжэнне з манументальным жывапісам Ноўгарада. *А. А. Трусаў.*

**ПОЛАЦКІ ВЕ́РХНІ ЗА́МАК.** На правым беразе р. Зах. Дзвіна пры ўпадзенні ў яе Палаты. З'яўляўся ўмацаваным цэнтрам *Полацка* ў 11—17 ст. Займаў узвышша пл. 9,44 га. Быў абкружаны валам з У, па краі пляцоўкі ўмацаваны драўлянымі сценамі-гароднямі з вежамі. Схілы пляцоўкі неаднаразова ўмацоўваліся — «тамаваліся» (паводле археал. даных, упершыню каля 1363). Паводле «Полацкай рэвізіі 1552 г.», на замку было 9 вежаў, у сярэдзіне 17 ст.— 10. Першае паселішча на тэр. замка ўзнікла ў канцы 9 — пач. 10 ст. У сярэдзіне 11 ст. з мыса на левым беразе Палаты сюды перанесены ўмацаваны дзядзінец горада, пабудаваны *Полацкі Сафійскі сабор.* У 12 ст. каля Сафійскага сабора збудаваны храм Архангела Міхаіла, у паўн. частцы замка — княжацкія палаты. Раскопкі праводзілі ў 1928 А. М. Ляўданскі, у 1957 М. К. Каргер, 1959—60 А. Г. Мітрафанаў, у 1961—62 В. Р. Тарасенка, у 1967 і 1980 Г. В. Штыхаў, у 1975—79 В. А. Булкін, у 1989 С. В. Тарасаў. Даследавана каля 2 тыс. м² пл. Культурны пласт 2—6 м.

Выяўлены рэшткі сядзіб з жылымі і гасп. пабудовамі, знойдзена вял. колькасць вырабаў з жалеза, скуры, гліны, каляровых металаў, шкла, косці. Сярод іх каменны абразок «Канстанцін і Алена». Аналіз археал. матэрыялаў і палеагеаграфічнай структуры замка дазваляе меркаваць, што яго тэрыторыя падзялялася на 2 часткі. Адна — адм.-паліт. і духоўны цэнтр горада, якi размяшчаўся на натуральным узвышшы вакол Сафійскага сабора, рэшткаў жылой і рамесніцкай забудовы раней 15—16 ст. тут не выяўлена. Другая (паўн.-ўсх.) частка замка знаходзілася ніжэй за першую на 2,5—3 м. Яе культурны пласт дасягае 5—6 м. Раскопкамі ўскрыты пабудовы 12—14 ст. Характар сядзібнай забудовы ў гэтай частцы замка дазваляе сцвярджаць, што тут жылі полацкія гараджане-рамеснікі. Замак як адм. цэнтр горада існаваў да 17 ст. У сувязі з развіццём ваеннай справы ён страціў свае фартыфікацыйныя, а потым і палітычную функцыі.

*Літ.:* 1152, 1347. *С. В. Тарасаў.*

**ПОЛАЦКІ ВЯЛІ́КІ ПАСА́Д.** На У ад *Полацкага Верхняга замка,* у міжрэччы Палаты і Зах. Дзвіны. Займае цэнтр. частку сучаснага Полацка, абмяжоўваецца трасай вуліцы Гогаля, з Пн — вуліцай Скарыны і р. Палата. Першапачатковым ядром пасада было *Полацкае селішча.* пазней тэр. *Полацкага Ніжняга замка.* У 11 ст. плошча пасада складала 20 га, у канцы 13 ст.— каля 50 га. У 11 ст. яго тэр. з усх. боку была абмежавана драўлянымі сценамі-гароднямі на каменным падмурку. У 15—16 ст. частка пасада абнесена сцяной і ровам, ён атрымаў назву Астрог, уздоўж яго сцен стаяла 9 вежаў.

Даследавалі ў 1962, 1968 і 1981 Г. В. Штыхаў, у 1986—91 С. В. Тарасаў. Культурны пласт 2—4 м. У 1987—88 на пл. Леніна даследавана пляцоўка 1100 м². Выяўлены сляды паселішча канца 9 — пач. 10 ст., рэшткі абарончай сцяны 11 ст., вулічныя насцілы і элементы грамадзянскай забудовы 13—17 ст., сядзіба ювеліра сярэдзіны — 2-й паловы 12 ст., якая складалася з 3 будынкаў. Адзін з гэтых будынкаў (памер 6×4,5 м) — 2-павярховы жылы дом-пяцісценка, два іншыя — майстэрні. Паводле дэндрахраналагічнага аналізу, яны ўзведзены паміж 1159 і 1164. У будынках і каля іх знойдзена больш за 400 кавалкаў апрацаванага і неапрацаванага бурштыну, больш за 60 фрагментаў і цэлыя тыглі для плаўкі каляровых металаў, бронзавыя загатоўкі (у асноўным бранзалетаў і бронзавага дроту), ювелірныя пінцэты, плечыкі-шалі і вагі, а таксама шкляныя



Фрагмент фрэскі 12 ст. на паўднёвай сцяне **Полацкай Спаскай царквы.**

бранзалеты, пацеркі і іх загатоўкі. Знаходкі сведчаць пра наяўнасць у тагачасным Полацку ювелірнай школы. Памеры і стан сядзібы (пл. каля 1000 м², абнесена штыкетнікам і плятнём) даюць падставы для вызначэння сацыяльнага статуса гэтага майстра і інш. жыхароў пасада. Відаць, гэта былі незалежныя вольныя майстры. Сярод знаходак 16—17 ст. асаблівую мастацкую вартасць маюць вытачаныя на такарным станку драўляная фігурка шахматнага ферзя і двухбаковая каменная пячатка з выявамі герба «Пагоня» з аднаго боку і «Аленя святога Губерта» з другога.

*Літ.:* 1150, 1347. *С. В. Тарасаў.*

**ПОЛАЦКІ ГІСТОРЫКА-КУЛЬТУРНЫ ЗАПАВЕДНІК.** Створаны ў г. Полацку ў 1990 на базе Полацкага гісторыка-археал. запаведніка (існаваў з 1967). Уключае: *Полацкі Верхні замак* з *Полацкім Сафійскім саборам, Полацкі Ніжні замак* з валам Івана IV Грознага, *Полацкае гарадзішча, Полацкае селішча,* пасады, Спаса-Ефрасіннеўскі манастыр (гл. ў арт. *Полацкія манастыры*), будынкі б. езуіцкага калегіума 17 ст., Богаяўленскі сабор 18 ст., будынак брацкай школы 18 ст., дом 18 ст., у якім жыў Пётр I, Чырвоны мост 19 ст. У запаведніку дзейнічаюць музеі: *Полацкі краязнаўчы музей,* баявой славы (аддзел краязнаўчага), беларускага кнігадрукавання, музей-кватэра З. М. Тусналобавай-Марчанка, карцінная галерэя, музей у Сафійскім саборы. У фондах запаведніка 50 610 прадметаў, у т. л. 12 515 археалогіі, 12 743 нумізматыкі. *Ю. А. Клопаў.*

**ПОЛАЦКІ ЗАПАЛОЦКІ ПАСАД,** Запалоцце. Узнік у канцы 10 — пач. 11 ст. ўздоўж правага берага Зах. Дзвіны, на ПдЗ ад *Полацкага Верхняга замка.* У 12—13 ст. займаў пл. каля 17 га. Пасад меў абарончыя збудаванні: з паўн. (напольнага) боку — роў і сцяну ў выглядзе падвойнага штыкетніка, з боку ракі быў абнесены сцяной. На адным з малюнкаў С. Пахалавіцкага, зробленым у час аблогі Полацка ў 1579 войскамі Стэфана Баторыя, Запалоцце абнесена сцяной з 8 вежамі. У цэнтры пасада стаяла царква. Напэўна, умацаванні пасада не адыгрывалі значнай ролі ў гар. фартыфікацыі. У 1579 яны былі дашчэнту спалены абаронцамі горада. Даследавалі 350 м² у 1961 і 1980 Г. В. Штыхаў, у 1986 С. В. Тарасаў. Культурны пласт 0,8—3 м. Знойдзены ганчарны посуд 10—17 ст., прылады працы, зброя, у т. л. касцяны грушападобны кісцень 12—13 ст. з цыркульным арнаментам у выглядзе крыжыкаў. Выяўлены элементы жылой забудовы.

*Літ.:* 1157, 1347, 1356. *С. В. Тарасаў.*

**ПОЛАЦКІ КНЯЖАЦКІ ХРАМ.** Існаваў у 12—16 ст. на *Полацкім Верхнім замку,* за 50 м ад Сафійскага сабора. З'яўляўся прататыпам храма Міхаіла ў Смаленску. Рэшткі выявіў у час археал. раскопак 1966 — 67 М. К. Каргер. Храм мураваны 3-нефавы, 6-стаўповы, 3-апсідны, памеры 24×16 м. Падкупальная прастора была перанесена на адно чляненне на З. Цэнтр. неф з У завяршаўся паўкруглай апсідай, больш вузкія бакавыя нефы — паўкруглымі нішамі ў тоўшчы сцяны. Да асн. аб'ёму прымыкалі з паўн. і паўд. бакоў прыбудовы з самастойнымі апсідамі, яшчэ адна, верагодна, з З. Сцены складзены з плінфы ў тэхніцы муроўкі са «схаваным радам». Памер цэглы пераважна 3,5—4,5×18—21,5×30—31 см. На паверхні плінфы трапляюцца знакі. Фасады аздаблялі лапаткі складанага профілю, закамары, аркатурныя паясы. Інтэр'ер размаляваны фрэскамі, падлога выкладзена керамічнымі пліткамі. Першую рэканструкцыю плана храма зрабіў Каргер, рэканструкцыю знешняга выгляду прапанаваў Г. В. Штыхаў.

*Літ.:* 493, 959, 1352.





Касцяная накладка з арнаментам 10—11 ст. і бронзавыя ювелірныя вагі 10—11 ст. з **Полацкага краязнаўчага музея.**



**Полацкі княжацкі храм.** Рэканструкцыя Г. В. Штыхава.

**ПОЛАЦКІ КРАЯЗНАЎЧЫ МУЗЕЙ.** Заснаваны і адкрыты ў 1926. У Вял. Айчынную вайну разрабаваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Адноўлены ў 1948 як Полацкі абл. краязнаўчы музей, з 1954 П. к. м., з 1985 філіял *Полацкага гісторыка-культурнага запаведніка.* Размешчаны ў будынку лютэранскай царквы (помнік архітэктуры 19 ст.). Усяго ў фондах 12,8 тыс. археал. знаходак (1991). Экспануюцца матэрыялы з раскопак мезалітычнай стаянкі *Пятроўцы,* гарадзішчаў Воронічы, *Урагава, Полацкага гарадзішча* і *Полацкага селішча, Полацкага Верхняга замка, Полацкага Вялікага пасада* і інш. на тэр. Полаччыны (8-е тысячагоддзе да н. э. — 18 ст.).

Сярод экспанатаў крамянёвыя прылады працы (разцы, скрэблы, праколкі, наканечнікі стрэл), каменныя сякеры, ляпны і ганчарны посуд, металічныя нажы, серп, сашнік, кручкі, замкі, ключы, прадметы стараж. рамёстваў — гарбарнага (боты, рукавіцы, кашалькі, ножны), касцярэзнага (дзяржанні нажоў, пісалы, пацеркі, грабяні, гузікі 10 ст.), ткацтва (шарсцяная тканіна, прасліцы), калекцыі зброі 10—16 ст. (баявыя сякеры, булавы, каменныя ядры, кальчуга, унікальная знаходка — меч 10 ст., на якім з медных пласцін у тэхніцы інкрустацыі зроблены надпіс лацінскімі літарамі «Ульфберт»). У экспазіцыі прадстаўлены вісляя свінцовая пячатка 11 ст. кіеўскага кн. Усевалада, выразаная на камені пячатка «Пагоня» 16—17 ст., плінфа, пліткі падлогі Полацкага Сафійскага сабора, фрагменты разнога княжацкага саркафага і смальта з храма-пахавальні полацкіх князёў, фрагмент плінфы 14 ст. з княжацкіх палат, тынкоўка з фрагментамі фрэскавай размалёўкі Барысаглебскага манастыра 12 ст. (гл. *Полацкія манастыры*), фрагменты смальты са Спаса-

Ефрасіннеўскага манастыра 12 ст., упрыгожанні 12 ст.— жаночыя і мужчынскія шыйныя грыўні, кольцы, падвескі, пярсцёнкі, бранзалеты, фібулы і формы для іх адліўкі, каменны абразок 12 ст., бурштын з Прыбалтыкі, смальта з Візантыі, ракавіны каўры і інш. У нумізматычнай калекцыі 8,6 тыс. манет, у т. л. арабскія куфічныя дырхемы 8—10 ст. з *Казьянкаўскага манетнага скарбу* 1973, пражскія грошы 14 ст., дынарый, паўгрошы ВКЛ, паўтараграшовікі і солідьі Рэчы Паспалітай, манеты Расіі 17 ст., грашовыя знакі канца 19 — пач. 20 ст. і інш.

*В. А. Купрыянаў.*

**ПОЛАЦКІ МАНЕ́ТНА-РЭ́ЧАВЫ СКАРБ.** Знойдзены ў 1910 на тэр. *Полацкага Верхняга замка.* **Рэчавая частка** (відаць, сыравінны запас ювеліра) складалася з 4 палачкападобных сярэбраных зліткаў (23,4 г, 174 г, 191 г, маса 4-га невядома), 39 абрубкаў такіх жа зліткаў, 3 фрагментаў буйных аладкападобных сярэбраных зліткаў, некалькіх загатовак з волава. **Манетная частка** складалася з некалькіх фрагментаў куфіцкіх *дырхемаў* Арабскага халіфата, 128 цэлых і 13 фрагментаў *дэнарыяў* дзяржаў Зах. Еўропы, 7 перайманняў іх (гл. *Манета-перайманне*) і *манетападобных пласцінак.*

**Англія** (11 цэлых і 3 фрагменты дэнарыяў): Этэльрэд II [979—1016] — манетныя двары Лінкольн (1), Тэтфард (1), Уолінгфорд (1); Канут [1016—1035] — манетныя двары Ганцінгдон (1), Кембрыдж (1), Кентэнберы (1), Лондан (2), Малмсберы (1); Гаральд I [1035—40] — манетны двор Лондан (1); Гартэкнут [1040—42) — манетныя двары Брыстоль (1) і нявызначаны (1); Эдуард [1042—66] — манетныя двары Ерк (1) і нявызначаны (1). **Германія** (102 цэлыя і 8 фрагментаў дэнарыяў): епіскап Тэадорых [1005—46] — манетныя двары Мец (1), Марсаль (1); нявызначаны эмітэнт часоў архіепіскапа Попа [1016—47] — манетны двор Трыр (1); нявызначаны эмітэнт (перад 1040) — манетны двор Льеж (1); граф Альберт II [1018—64] — манетныя двары Намюр (3), Дынан (3); Генрых III [1039—56] — манетны двор Сель (1); нявызначаныя эмітэнт (каля 1040—70) і манетны двор у зах. частцы Ніжняй Латарынгіі (1); Атон I [936—73] — манетны двор Кёльн (1); Атон III [983—996] — манетны двор Кёльн (3); нявызначаны эмітэнт, манетны двор Кёльн (4); Генрых III [1039—56] — манетны двор Аахен (1); архіепіскап Пілігрым [1021—36] — манетны двор Андэрнах (2); нявызначаны эмітэнт часоў архіепіскапа Германа II [1039—56] — манетны двор Андэрнах (?) (1); епіскап Вільгельм [1054—76] — манетны двор Утрэхт (1); епіскап Бярнольд [1027—54] — манетныя двары Давентэр (4), Гронінген (1); Генрых II [1002—24] — манетны двор Тыль (1); Генрых II ці Конрад II [1024—39] — манетны двор Тыль (1); граф Бруно III [1038—57] — манетныя двары Болсвард (2), Дакюм (3), Леэвардэн (4); нявызначаныя эмітэнт і манетныя двары у Фрысландыі (1); Атон і Адэльгейда — нявызначаныя манетныя двары (17); нявызначаны эмітэнт, манетны двор Магдэбург (1); нявызначаны эмітэнт сярэдзіны 11 ст., манетны двор Гітэльдэ (3); епіскап Бруно [1020—1036] — манетны двор Мерзебург (1); нявызначаны эмітэнт сярэдзіны 11 ст., манетны двор Бардовік (1); герцаг Бернгард I [973—1011] — манетны двор Люнэбург (1); герцаг Бернгард II [1011—59] — манетны двор Люнэбург (1); граф Уда II [1057—82?] — манетны двор Штадэ (2); нявызначаны эмітэнт часоў епіскапа Готхарда [1022—38] — манетны двор Гільдэсгайм (3); нявызначаныя эмітэнт (каля 1060—65) і манетны двор на Ніжняй Эльбе (1); Генрых II — манетны двор Дортмунд (2); архіепіскап Лупольд [1051—59] — манетны двор Эрфурт (1); нявызначаны эмітэнт (каля 1010) — манетны двор Фульда (1); Генрых III — манетныя двары Майнц (3 — чаканка 1039—46, 2 — чаканка 1046—56), Шпеер (4 — чаканка 1039—46); Конрад II — манетны двор Шпеер (3); епіскап Конрад [1056—60] — манетны двор Шпеер (1); герцаг Генрых VI [1028—40] — манетны двор Рэгенсбург (2); нявызначаныя эмітэнты і манетныя двары (15 цэлых і 6 фрагментаў дэнарыяў). **Данія** (12 цэлых і 2 фрагменты дэнарыяў): Канут [1018—35] — манетны двор Лунд (1); Гартэкнут [1035—42] — нявызначаныя манетныя двары (5); Свен Эстрыдсен [1047—74] — манетныя двары Лунд (6), Рыбе (1), Слагельсе (1). **Чэхія** (1): Бржэтыслаў I [1034—55] — нявызначаны манетны двор. **Венгрыя** (2): Стэфан [997—1038] — нявызначаны манетны двор, Андрэй [1046—61] — нявызначаны манетны двор. Перайманні (7): імітацыя англійскага дэнарыя Этэльрэда II (2 экз.); імітацыя германскіх дэнарыяў архіепіскапа Эбяргарда [1047—1066] — манетных двароў Трыра (1), Тыля сярэдзіны 11 ст. (1), Шпеера (?) 11 ст. (3). Манетападобныя пласцінкі, метралагічна блізкія да дэнарыя (? экз.).





Бронзавы пласціністы бранзалет 11—13 ст. і металічная ажурная накладка 12 ст. з **Полацкага краязнаўчага музея.**

Ухаваны паміж 1060 і 1070. Частка скарбу захоўваецца ў Гіст. музеі (Масква).

*Літ.:* 581, 1339, 1541, 1569.

*В. Н. Рабцэвіч.*

**ПОЛАЦКІ МАНЕ́ТНЫ ДВОР.** Запланаваны ўказам царскага ўрада ад 8.5.1796 у *Полацку* для перачаканкі расійскіх медных *палушкі, дзенгі, дзвюх капеек, пяці капеек* і 16-рублёвай манетнай *стопы* ў 32-рублёвую (падваенне наміналаў) на суму 1 млн. руб. у год і выпуску дзенгі, 1, 2, 4, 10 капеек. З-за смерці Кацярыны II (6.11.1796) падрыхтоўчыя работы былі спынены і двор працаваць так і не пачаў.

*Літ.:* 1525а.

**ПОЛАЦКІ НІ́ЖНІ ЗА́МАК,** Стралецкі замак. Пабудаваны па загаду Івана IV Грознага пасля ўзяцця *Полацка* рус. войскамі ў 1563, прымыкаў да *Полацкага Верхняга замка.* Пл. 6 га. З У і ПдЗ быў абгароджаны валам (Вал Івана IV Грознага) даўж. каля 600 м, выш. да 10 м, шыр. у аснове да 30 м. Першыя звесткі пра замак і вал сустракаюцца ў пісьмовых крыніцах 2-й пал. 16 ст., калі пад кіраўніцтвам баярына П. І. Шуйскага ваяводы П. Зайцаў і Б. Шчокін значна ўмацавалі Полацк. У гэты час і насыпаны вал. Пры яго будаўніцтве быў скарыстаны грунт аб'ёмам каля 230 тыс. м³. Частка грунту была ўзята з месца, дзе капалася новае русла р. Палата (паміж стараж. *Полацкім гарадзішчам* і *Полацкім селішчам*). Паводле плана 1579 С. Пахаловіцкага, на вале было 8 вежаў. У цэнтры замка стаяла вежа-данжон. У сярэдзіне — 2-й пал. 17 ст. вежы і сцены замка заменены «тынам стаячым». З канца 16 ст. замак перастаў адыгрываць вызначаную яму фартыфікацыйную ролю, у 1579 войскі С. Баторыя штурмавалі полацкія ўмацаванні з боку Верхняга замка. У пач. 17 ст. тэр. Ніжняга замка ўключана ў *Полацкі Вялікі пасад.* Даследавалі Ніжні замак у 1959 Л. Д. Побаль, у 1962 і 1964 Г. В. Штыхаў, у 1986, 1989, 1990 С. В. Тарасаў. Культурны пласт 1,5—3 м перамяшаны ў выніку шматлікіх перапланіровак тэр. замка. Некранутымі засталіся толькі напластаванні раннефеад. часу, якія аддзяляюцца ад пластоў 12—17 ст. з мяшанымі матэрыяламі глінянай падсыпкай з дамешкамі суглінку

магутнасцю ад 0,1 да 0,4 м, якая ўзнікла падчас ніveліроўкі тэр. і будаўніцтва замка пасля 1563. У 1984 на тэр. замка знойдзены скарб стараж. залатых рэчаў (гл. *Полацкі рэчавы скарб*).

*Літ.:* 157, 353, 1157, 1347.

*С. В. Тарасаў.*

**ПОЛАЦКІ РЭЧАВЫ СКАРБ.** Знойдзены ў 1984 на тэр. *Полацкага Ніжняга замка.* Складаецца з 6 залатых (проба 958°) рэчаў 9—10 ст., магчыма, выраблених у Полацку: бранзалет 9 ст. з чатырохграннага дроту (маса 78,41 г); бранзалет з круглага тоўстага дроту з завязанымі канцамі, разламаны або рассечаны на 2 часткі (маса 48,64 і 41,77 г); бранзалет з круглага дроту (маса 29,68 г); бранзалет (або частка грыўні) 10 ст., скручаны з 4 дратоў (маса 40,04 г); бранзалет 10 ст., скручаны з 2 дратоў (маса 54,07 г); фрагмент грыўні 10 ст., сплецены з 4 дратоў, з часткай яе замка (маса 41,56 г). Скарб ухаваны ў 2-й пал. 10 ст. Зберагаецца ў *Полацкім гісторыка-культурным запаведніку.*

*Літ.:* 581, 1337.

*У. М. Мілюцін.*

**ПОЛАЦКІ САФІЙСКІ САБОР,** помнік архітэктуры 11—18 ст. Паклаў пачатак Полацкай архітэктурнай школе. Пабудаваны на правым беразе Зах. Дзвіны на полацкім дзядзінцы пры кн. Усяславе Брачыславічу паміж 1044—66 (паводле інш. звестак, у 1050—55). Пасля неаднаразовых перабудоў (апошняя 18 ст.) захаваўся да нашага часу як храм у стылі «віленскага барока».

У канцы 19 ст. А. М. Паўлінаў выявіў рэшткі першапачатковай мурoўкі 11 ст. і адзначыў, што зах. апсіды больш позні і прыбудаваны для сіметрыі. У 1909 і 1913 даследаванні прадоўжыў П. П. Пакрышкін і выявіў пад падлогай рэшткі першапачатковых слупоў і сцен 11—12 ст. У 1926 сабор вывучалі М. М. Шчакаціхін і І. М. Хозераў, якія прапанавалі рэканструкцыі пачатковага плана храма (рэканструкцыя Хозерава больш дакладная). У 1929 сабор абследавала экспедыцыя пад кіраўніцтвам А. І. Някрасава, якая выявіла і даследавала рэшткі фрэсак на стараж. слупах храма, што знаходзіліся пад падлогай. У 1946 даследаванні сабора працягваў Хозераў, які пацвердзіў свой вывад пра больш позні (не раней 15 ст.) час пабудовы зах. апсід. У 1967 М. К. Каргер правёў невял. раскопкі ў сярэдзіне храма пад падлогай, расчысціў рэшткі фундаментаў і сцен з багатай фрэскавай размалёўкай. Самыя значныя даследаванні сабора ў 1975—80 правёў Вас. А. Булкін. Ён выявіў рэшткі дзвярнога праёма 11 ст. ў паўд. сцяне храма, ускрыў падмуркі прытвора (7,8×5 м) каля паўд. партала сабора, раскапаў рэшткі мураваных аб'ёмаў, прыбудаваных да храма з паўд.-ўсх. боку ў 12—13 ст., і квадратнае ў плане памяшканне 12 ст. каля паўд.-зах. вугла храма. Сярод іх вылучаецца княжацкая пахавальня — невял. капліча з прамавугольнай у плане апсідай.

Сабор — крыжова-купальны храм, у плане блізкі да квадрата (каля 26,5×25,5), з вял. 3-часткавай апсідай з У. Сцены ўзведзены ў тэхніцы мяшанай мурoўкі, падобнай да візантыйскай: рады неапрацаванага прыроднага каменю чаргаваліся з радамі плінфы, выкладзенай у тэхніцы паласатай мурoўкі (мурoўка «са схаваным радам»). Прамежак (10—12 см) паміж выступаючымі радамі цаглін запаўняўся цамянкавай рошчынай ружовага колеру. Сцены не тынкавалі, і цёмны колер камянёў прыгожа спалучаўся з чырвона-ружовымі радамі цаглянай мурoўкі. Памеры плінфы пераважна 3,5×23—24.5×33,5—35, на тарцах некаторых цаглін знакі. Дах быў накрыты свінцовымі лістамі. Даследчыкі мяркуюць, што сабор меў 7 купалаў. Магчыма, галоўны купал, які размяшчаўся над сярoдкрыжжам, быў пазалочаны. 16 крыжовых у плане слупоў падзялялі ўнутраную прастору храма на 5 падоўжных нефаў. Сцены і слупы ў інтэр'еры былі аздоблены фрэскамі, выкананымі па вільготнай тынкоўцы ў чырвонай, зялёнай і белай колеравай гаме з сінеблакітнымі, шэра-жоўтымі, карычнева-чырвонымі адценнямі. Рэшткі фрэсак 11 ст. жоўта-зялёнага і жоўта-карычневага колераў захаваліся ва ўсх. апсідзе. Падлога храма была выкладзена з невял. паліваных плітак. У канцы 15 — пач. 16 ст., магчыма, перабудаваны ў 5-вежавы храм абарончага тыпу. У 1618 праведзена апошняя адбудова. Пасля перабудовы 18 ст. храм (3-нефавая мураваная базіліка з 2 шмат'ярусными вежамі на гал. фасадзе) арыентаваны з Пд на Пн. З усх. боку ў кампазіцыю сабора ўключаны рэшткі сцен, склеп і гранёная апсіда храма 2-й пал. 11 ст. (даўжыня старой забудовы вызначыла шырыню новай). Пасля рэстаўрацыі ў 1985 сабор прыстасаваны пад канцэртную залу з арганам. У ім створаны Музей гісторыі архітэктуры Сафійскага сабора.

*Літ.:* 175, 1223.

*А. А. Трусаў.*

**ПОЛАЦКІЯ ГАРАДСКІЯ ЎМАЦАВАННІ.** Існавалі ў 11—17 ст. Абарончыя збудаванні мелі ўсе асн. раёны стараж. Полацка: *Полацкі Верхні замак, Полацкі Ніжні замак, Полацкі Вялікі пасад, Полацкі Запалоцкі пасад.* Паводле летапісных звестак, яны былі зроблены з дрэва. «Сага аб Цідрыку Бернскім» (запіс адносіцца да 13 ст.) паведамляе пра наяўнасць у Полацку мураваных умацаванняў. Больш падрабязныя звесткі ёсць у дакументах 15—17 ст. Паводле іх, у 1552 на Верхнім замку былі драўляныя сцены-гародні. Уздоўж сцен па перыметры замка стаялі вежы: Вусцейская, Асвейская, Міхайлаўская, Багародзіцкая, Сафейская і 4 безыменных. У 17 ст., пасля ўмацавання замка, вежы перабудаваны, некаторыя пастаўлены ў іншых месцах.

Паводле дакумента 1654, было 10 вежаў: Чырвоная (раней Каралеўская), Праезная, Гуська, Раждзественская (новая), Бык (раней вежа-фортка), Новая (Усць-Палаты), Бык (раней Ваяводзіцкая), Машна (новая), Бык (раней



Полацкі рэчавы скарб.

Брусяная), Баярская (старая) і 2 брамы — праезная і фортка. Магчыма, што вежа Чырвоная была мураванай. Умацаванні Вялікага пасада вядомы з 11 ст. У 16—17 ст. яны былі аналагічныя фартыфікацыі Верхняга замка. Абарончая сцяна пачыналася ад Варварынскай вадзяной вежы Верхняга замка, якая стаяла на беразе Зах. Дзвіны, цягнулася ўздоўж правага берага прыблізна на 1,5 км уверх па цячэнні ракі да крайняй Міронаўскай вежы, тут паварочвала на Пн, уздоўж глыбокага рова да р. Палаты. Былі вежы: Ложная (праезная), Ільінская, Скарбная, Невельская і вуглавая паўн.-ўсх. Навугольная. Ад апошняй сцяна ішла па левым беразе р. Палаты на З да Кабыльчынай вежы (побач з сучасным Чырвоным мостам). Далей стаяла вежа-фортка, а за ёй, уздоўж левага берага Палаты да Верхняга замка,— сцяна без вежаў. На Ніжнім замку ў 17 ст. вежы і сцены заменены «тынам стаячым». Абарончыя збудаванні Запалоцця вядомы з 12 ст. У 16 ст. яны былі аналагічныя ўмацаванням Верхняга замка і Вялікага пасада. Аднак тут адсутнічалі валы, а замест зрубаўгародняў быў падвойны «тын стаячы». Археал. даследаванні П. г. у. праводзілі ў 1979 Вас. А. Булкін, у 1986—89 С. В. Тарасаў. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў *Полацкім гісторыка-культурным запаведніку.*

*Літ.:* 302, 1150, 1151, 1189, 1347.

*С. В. Тарасаў.*

**ПОЛАЦКІЯ МАНАСТЫРЫ.** У 11—13 ст. у *Полацку* існавалі Спаса-Ефрасіннеўскі, Бельчыцкі Барысаглебскі і манастыр пры Сафійскім саборы. У 14—17 ст. акрамя іх было яшчэ каля 10 манастыроў: Іаана Прадцечы (Астроўскі), Троіцкі, Міколы на Лучне, бернардзінцаў (15 ст.), Міхаіла на Гарадцы, Святога Узнясення (Машоначны), Святога Пятра, Святых Кузьмы і Даміяна, Святога Юр'я, Богаяўленскі (16 ст.). Археал. даследаваны:

Бельчыцкі Барысаглебскі манастыр (гл. ў арт. *Бельчыцкія храмы*).

Спаса-Праабражэнскі (Ефрасіннеўскі) манастыр. У раёне вуліцы Фрунзе, на правым беразе р. Палата. Засн. ў 12 ст. Ефрасінняй Полацкай. У ансамбль уваходзілі 2 мураваныя царквы, у т. л. *Полацкая Спаская царква.* Недалёка ад яе размяшчаўся трохнефавы крыжовакупальны будынак вялікіх памераў з 3 бакавымі прытворамі (зберагліся руіны). У прытворах знойдзены рэшткі мужчынскіх пахаванняў у цагляных саркафагах. Верагодна, сабор з'яўляўся пахавальняй полацкіх епіскапаў. Даследавалі ў 1961, 1962, 1964 М. К. Каргер, у 1976 С. В. Тарасаў. Культурны пласт 1,5 м, моцна пашкоджаны, матэрыялаў дамангольскага часу не знойдзена.

Манастыр Іаана Прадцечы. На Востраўскім пасадзе, насупраць *Полацкага Верхняга замка.* Вядомы па пісьмовых крыніцах з 14 ст. Рэшткаў мураваных пабудоў не выяўлена. Тэр. манастыра даследавалі ў 1959 Л. Д. Побаль, у 1963 Г. В. Штыхаў, у 1987 С. В. Тарасаў. Культурны пласт у зах. часткі пасада да 0,5 м, ва ўсходняй 1—1,5 м. Значна пашкоджаны пахаваннямі больш позняга часу. Знойдзены фрагменты плінфы і посуду 11—13 ст., керамічны матэрыял 14—17 ст.

*Літ.:* 205, 1226, 1347.

*Г. В. Штыхаў, С. В. Тарасаў.*

**ПОЛАЦКІЯ ПАСЕЛІШЧЫ-СПАДАРОЖНІКІ,** неўмацаваныя паселішчы ў ваколіцах старaж. *Полацка.* Выконвалі функцыі с.-г. прадмесцяў горада. Усе паселішчы не далей як за 5 км ад яго гіст. часткі. Некаторыя ў межах сучаснага Полацка. Адкрыў і даследаваў у 1986—87 С. В. Тарасаў.

Паселішча-1. На ПнЗ ад Полацка, каля в. Чарнешчына, на правым беразе р. Зах. Дзвіна. Пл. каля 1 га. Культурны пласт 0,4 м, значна пашкоджаны разворваннем. Сярод знаходак посуд 11 ст., такі ж посуд знойдзены за 1,5—2 км ад в. Чарнешчыны, у зоне 7-га кіламетра аўтастрады Полацк — Наваполацк.

Паселішча-2. За 500—600 м на ПнЗ ад *Полацкага Запалоцкага пасада,* на беразе р. Зах. Дзвіна, за 100 м ад вады, на месцы былой в. Казіныя Горкі. Мясц. назва Капанкі. Часткова знішчана гравійным кар'ерам. Рэшткі паселішча на пляцоўцы памерам 100×200 м. Культурны пласт 0,2—0,4 м. Выўлены матэрыялы 11—13 ст.

Паселішча-3. На ПнУ ад в. Струнь, каля в. Гаравая, на правым беразе р. Зах. Дзвіна, па берагах р. Стрункі. Пляцоўка памерам 100×60 м. Культурны пласт 0,4—0,9 м. Знойдзены ляпны посуд 1-га тысячагоддзя і ганчарны посуд 11—12 ст. Такі ж ганчарны посуд знойдзены на полі каля в. Саланікі.

Паселішча-4. За 600 м на Пд ад в. Фальварак, на левым беразе р. Зах. Дзвіна. Пляцоўка памерам 70×70 м. Культурны пласт 0,3—0,5 м. У мацерыковай яме знойдзены посуд 16—17 ст. Некалькі фрагментаў, магчыма, адносяцца да больш позняга часу.

Паселішча-5. На левым беразе р. Зах. Дзвіна, насупраць Запалоцкага пасада. Пляцоўка супадае з тэр. в. Экімань. Знойдзена кераміка 12—13 ст.

*Літ.:* 1157. *С. В. Тарасаў.*

**ПОЛЕ** манеты, паверхня, абмежаваная краем манеты, на якой змешчаны *легенда,* намінал і выявы. П. называюць таксама свабодную ад легенды і выяў плошчу манеты, якая ляжыць ніжэй або вышэй (пры ўжыванні контррэльефу) за легенду выявы. У калекцыйных і мемарыяльных манетах сустракаецца люстранае або матавае поле, якое робіцца з дапамогай *штэмпеля.* Тэрмін запазычаны з *геральдыкі.*

*Літ.:* 1570.

**«ПОМНІКІ ГІСТОРЫІ І КУЛЬТУРЫ БЕЛАРУСІ»,** інфармацыйны навукова-метадычны бюлетэнь *Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры.* Выдаваўся ў 1970—89 на бел. мове ў Мінску. Сістэматычна змяшчаў справаздачы пра з'езды таварыства, пленумы яго Рэсп. савета, матэрыялы аб рабоце абласных і раённых аддзяленняў.

У бюлетэні надрукаваны статут таварыства (1987, № 1) і Закон Беларускай ССР аб ахове і выкарыстанні помнікаў гісторыі і культуры (1978, № 4), публікаваліся спісы помнікаў гісторыі і культуры па раёнах, у т. л. поўны пералік помнікаў археалогіі (напрыклад «Помнікі Бабруйшчыны», 1981, № 1; ««У Чэрыкаўскім раёне», 1981, № 2; «На Слуцкай зямлі», 1981, № 3; «На паўднёвым захадзе рэспублікі», 1982, № 2; «Помнікі Мазыршчыны», 1982, № 3; «Помнікі Хойніцкага раёна», 1983, № 3; «На Клімаўшчыне», 1984, № 4 і інш.). У «Помніках...» друкаваліся і агульныя артыкулы па археалогіі («Палавецкія паселішчы на Беларусі» М. І. Алексеюка, 1978, № 1; «Старажытныя гарады Панямоння» Ф. Д. Гурэвіч, 1980, № 1; «Умацаваныя феадальныя сядзібы XI—XIII ст.» А. М. Ваганавай, 1980, № 3; «Паселішча ранняга жалезнага веку» М. І. Лашанкова і «Старажытнарускія курганы» Я. Р. Рыера, 1985, № 3 і інш.), артыкулы пра асобныя археал. помнікі («Старажытны Друцк», 1973, № 3 і «Старажытны Браслаў», 1978, № 4 Л. В. Аляксеева; «Тайманаўскі археалагічны комплекс» Л. Д. Побаля, 1979, № 3; «Паселішча на Крывінскім тарфяніку» Э. М. Зайкоўскага, 1980, № 1; «Гарадзішча Замошша» В. І. Шадыры, 1980, № 2 і інш.). У артыкуле Л. Л. Чарняўскай і І. М. Чарняўскага «Нясвіж. З мінулага» (1988, № 1) на падставе археал. даследаванняў сцвярджаецца, што культурны пласт горада адносіцца да 2-й пал. 16—18 ст., таму летапісныя звесткі пра нясвіжскага кн. Юрыя, які прымаў удзел у бітве на р. Калка ў 1223, не маюць дачынення да г. Нясвіжа Мінскай вобл. Шмат артыкулаў прысвечана аналізу археал. знаходак, на аснове чаго зроблены вывады аб занятках старaж. насельніцтва: «Старажытныя прылады працы» У. Ф. Ісаенкі і В. У. Чэшка (1975, № 1), «Зброя і прылады працы з раннесярэдневяковых паселішчаў Беларусі» В. Б. Перхаўкі (1977, № 4), «Берасцяная грамата» Аляксеева (1982, № 2), «Абутак сярэдневяковага Мінска» В. Е. Собаля іі С. В. Тарасава (1985, № 4) і інш. У бюлетэні рэгулярна змяшчаліся справаздачы археал. экспедыцый і звесткі краязнаўцаў пра асобныя помнікі: «На старажытных гарадзішчах» С. Я. Расадзіна (1982, № 3), «Адкрыцці археалагічнага лета» Т. М. Каробушкінай (1983, № 2), «Археалагічныя раскопкі на Падзвінні» Л. У. Дучыц (1984, № 3) і інш. У асобных артыкулах узнімаліся пытанні пра час і месца ўзнікнення старaж. гарадоў: «Калі быў заснаваны Віцебск?» Б. А. Рыбакова і Аляксеева (1971, № 2), «Легенды і быль старажытнага Заслаўя» І. П. Загрышава

і С. А. Мілючэнкава (1977, № 2). Закраналіся пытанні пошуку і аховы археал. помнікаў: «Што шукаць краязнаўцу?» Ісаенкі (1977, № 2), «Збіраць, ахоўваць, вывучаць...» Г. А. Каханоўскага (1983, № 1) і інш. У бюлетэні змяшчаліся матэрыялы, прысвечаныя даследчыкам бел. археалогіі: «С. С. Шутаў — археолаг і доктар» М. М. Улашчыка пра жыццё і дзейнасць С. С. Шутава (1973, № 3), «Старонкі гісторыі» К. А. Біруковіч пра археолага, стваральніка Слонімскага краязнаўчага музея І. І. Стаброўскага (1974, № 3), «Вучоны энцыклапедычнай эрудыцыі» Каробушкінай пра выдатнага бел. археолага А. М. Ляўданскага (1984, № 3), «Пачатак вывучэння помнікаў» Аляксеева пра бел. археолагаў 19 ст. (1984, № 4) і інш. Амаль у кожным нумары бюлетэня змяшчаліся рэцэнзіі на новыя кнігі, у т. л. на працы па археалогіі і нумізматыцы: «Манетныя скарбы Беларусі» Побаля (1978, № 1, на кнігу В. Н. Рабцэвіча «Пра што апавядаюць манеты»), «Новыя крыніцы па беларускай археалогіі» (1981, № 2, на кнігу Побаля «Старажытнасці Беларусі ў музеях Польшчы»), «З гісторыі земляробства» (1982, № 3, на кнігу Каробушкінай «Земляробства на тэрыторыі Беларусі ў X—XIII стст.») М. А. Ткачова і інш. У канцы кожнага нумара бюлетэня змяшчалася рэзюме на рус. і англійскай мовах. *У. Дз. Будзько.*

**«ПО́МНІКІ СТАРАЖЫТНАБЕЛАРУ́СКАЙ КУЛЬТУ́РЫ: НО́ВЫЯ АДКРЫ́ЦЦІ»,** выданне Ін-та мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі. Прысвечана знаходкам і даследаванням у галіне стараж.-бел. культуры па выяўленчаму мастацтву, архітэктуры, гісторыі культуры, археалогіі і інш. Выйшла 3 зборнікі.

1-ы зборнік выйшаў у 1984. У ім змешчаны артыкулы па археалогіі Л. Д. Побаля «Сярэдневяковыя славянскія старажытнасці Беларускага Падняпроўя: (Па матэрыялах археал. даследаў у в. Тайманава Магілёўскай вобл., II—IX стст. н. э.)», Г. В. Штыхава «Новыя раскопкі ў Полацку», А. А. Трусава «Кафля Мірскага замка», В. Е. Собаля, У. В. Угрыновіча «Кафля Мінска XV—XVIII стст.», В. М. Ляўко «Абутак з культурнага слоя Віцебска XIV—XVIII стст.». 2-і зборнік пад назвай «Помнікі культуры: Новыя адкрыцці» выйшаў у 1985. Артыкулы па археалогіі: У. П. Ксяндзова «Помнікі каменнага веку ў сярэднім цячэнні ракі Бярэзіна», М. М. Чарняўскага «Старажытны бурштын Паўночнай Беларусі», Г. М. Залашкі «Скіфскія помнікі на поўдні Беларусі», Л. У. Дучыц «Культура паўночна-заходняй ускраіны Полацкага княства: (Па матэрыялах гарадзішча Маскавічы)», Штыхава «Гарадзішча Гарадзец на рацэ Мнюта», Л. У. Калядзінскага і М. А. Ткачова «Драўляныя вырабы і дрэваапрацоўка ў сярэдневяковым Віцебску», Ю. А. Зайца «Зброя бліжняга бою, рыштунак конніка і верхавога каня з раскопак Заслаўя», Трусава і І. М. Чарняўскага «Керамічныя падлогі ў інтэр'ерах помнікаў дойлідства беларускага сярэдневякоўя», Н. І. Здановіч і Трусава «Мсціслаўскі посуд XV—XIX стст.». 3-і зборнік пад назвай «Помнікі мастацкай культуры Беларусі: Новыя даследаванні» выйшаў у 1989. Артыкулы па археалогіі: М. М. Чарняўскага і Я. Г. Звяругі «Каменная выява з-пад Даўгінава», Дучыц «Культавыя камяні Беларусі», Штыхава «Выраб старабеларускай дробнай пластыкі», Зайца «Мінская брама XII ст.», Ляўко «Замак Езярышча», Г. М. Сагановіча «Кавальскія вырабы сярэдневяковага Мсціслава», М. І. Лашанкова «Грузікі мілаградскай культуры з усходнепалескіх гарадзішчаў», Трусава і Угрыновіча «Тыпалогія і храналогія лідскай кафлі». *Г. В. Штыхаў.*

**ПО́ЯС,** пас, доўгая паласа тканіны, скуры ці інш. суцэльнага або вязанага ці плеценага матэрыялу, якой падпяразваюцца. У старажытнасці багата ўпрыгожаны П. мог быць сімвалам багацця і ўлады. З П. звязаны многія прыкметы, павер'і і замовы. Лічылася, што ён аберагае ад няшчасцяў. Вядомы з бронзавага веку ва ўсіх народаў свету. На П. насілі зброю, амулеты, кашалькі і інш. Ён завязваўся або зашпільваўся металічнымі (радзей касцянымі) *спражкамі (фібуламі).* Найбольш вядомыя на Беларусі знаходкі П.: у Заслаўі — плецены П. і П. са скуры з бронзавымі дэталямі (11—12 ст.), у Навагрудку — тонкі шаўковы (візантыйскі) П., у в. Шо (Глыбоцкі р-н) знойдзены П. з металічнымі пласцінамі з рэльефным штампаваным адбіткам 11 ст., каля в. Дварчаны (Воранаўскі р-н) — рэшткі паяснога набору, (бронзавыя накладкі, аздобленыя чорнай эмаллю, 13—14 ст.).

*Літ.:* 70, 1067а. *Л. У. Дучыц.*

**ПРАДГРА́ДДЗЕ,** тое, што *Пасад.*

**ПРА́ЖСКАЯ КУЛЬТУ́РА,** археал. культура раннеславянскіх плямён, якія ў 5—7 ст. н. э. насялялі тэр. ад Дняпра і воз. Ільмень на У да р. Эльбы і Дуная на З і Пд. У самастойную культуру вылучана ў 1940-я г. з інш. старажытнасцей ранняга сярэднявечча Еўропы чэшскім археолагам І. Баркоўскім пад назвай «кераміка пражскага тыпу». Лакальныя варыянты П. к. азначаны яшчэ не зусім дакладна. Вылучаюць 4 групоўкі: пражска-карчакскую (гл. арт. *Карчак*), пражска-пянькоўскую (гл. *Пянькоўская культура*), сукацка-дзедзіцкую і ільменска-пскоўскую. Лічаць, што гэтыя групоўкі славянства сярэдзіны 1-га тысячагоддзя н. э. адлюстроўваюць дыялектна-племяннoе чляненне на апошняй стадыі існавання праславянскай мовы.

Вядома больш за 500 помнікаў П. к., прадстаўленых у асн. селішчамі могільнікамі; адкрыта і некалькі гарадзішчаў. Селішчы размяшчаліся па берагах рэк, старыц, азёр, ручаёў, у месцах, прыдатных для земляробства і жывёлагадоўлі. У большасці выпадкаў селішчы канцэнтраваліся па 3—4 у групе на адлегласці 0,2—3 км адна ад адной. Сярэдняя пл. селішчаў 0,5—1 га, на ім звычайна было 15—20 жытлаў. Вядомы селішчы меншага і большага (у Паднястроўі) памераў. У міжрэччы Дняпра і Віслы асн. тыпам жытла была амаль квадратная паўзямлянка пл. 5—20 м², паглыбленая ў мацярык на 0,2—1 м, са зрубнай ці слупавой канструкцыяй сцен. Падлога звычайна пясчаная, зрэдку падмазаная глінай. У большасці выпадкаў жытлы абаграваліся печкамі-каменкамі. На Палессі і Валыні сустракаюцца глінабітныя печы, на паўн. беразе Прыпяці — адкрытыя агнішчы, выкладзеныя камянямі ці камянямі і кавалкамі балотнай руды (Петрыкаў, Кажан-Гарадок, Камень). Паміж Віслай і Одэрам на селішчах П. к. пераважаюць жылыя збудаванні авальнай падоўжанай формы з гліняными ці каменнымі агнішчамі. Гасп. пабудовы прадстаўлены ў асноўным разнастайнымі ямамі-сховішчамі, якія размяшчаліся асобна ад жытлаў.




**Праколкі** з пласціны (1) і з адшчэпа (2).

Пахавальныя помнікі П. к.— грунтавыя могільнікі ці курганы з абрадам трупаспалення. Крэмацыя нябожчыкаў адбывалася заўсёды па-за межамі пахавання. На Бел. Палессі бескурганны могільнік П. к. даследаваны каля в. Хорск, трупаспаленне выяўлена на селішчы *Хатомель,* падкурганнае пахаванне — у в. Сямурадцы Жыткавіцкага р-на. Рэчавы матэрыял П. к. даволі бедны, прадстаўлены керамікай, вырабамі з металу, косці і каменю. Найбольш адметная форма керамічнага посуду — высокі гаршчок з усечана-канічным тулавам, злёгку звужаным горлам і кароткім венцам; найбольшы дыяметр гаршка прыпадае на верхнюю частку, арнаментацыя звычайна адсутнічае. Сустракаюцца гліняныя патэльні. Славянская культура ранняга сярэднявечча склалася ў выніку глыбокіх этнакультурных і сацыяльна-эканам. працэсаў, якія ўцягнулі ў сваё кола прадстаўнікоў П. к., пэўных груп насельніцтва чарняхоўскай і пшэворскай культур (гл. адпаведныя арт.) і элементы вельбарскіх, балтыйскіх і фіна-угорскіх традыцый.

*Літ.:* 998, 1052, 1059, 1386. *В. С. Вяргей.*

**ПРАКО́ЛКА,** прылада працы першабытнага чалавека для пракол-

вання адтуліны ў скуры жывёл з мэтай пашыву адзення, абутку і інш. З'явілася ў эпоху *мусцье*, выраблялася з дробных *пласцін* ці *адшчэпаў* з вузкім і вострым канцом, які апрацоўваўся рэтушшу або заставаўся натуральным.

**ПРАЛЕТА́РСКІ,** археал. помнікі каля пас. Пралетарскі Веткаўскага р-на.

Паселішча-1 эпохі неаліту і бронзавага веку. За 3,2 км на ПнЗ ад пасёлка, на левым беразе р. Сож, за 200 м на ПдУ ад рачнога паста Смедзін. Памер 150×25 м. Адкрыла ў 1976 і абследавала ў 1980 А. Г. Калечыц. У шурфах выяўлены культурны пласт 0,2—0,4 м. Знойдзены крамянёвыя прылады працы (разцы, скрабкі, нажападобныя пласціны, нуклеусы і інш.), ляпная кераміка.

Паселішча-2 *верхнедняпроўскай культуры*. За 300 м на Пд ад пасёлка, ва ўрочышчы Папова, на высокіх пясчаных дзюнах. Адкрыў у 1926 К. П. Палікарповіч, абследавалі ў 1965 І. І. Арцёменка, у 1976 Калечыц, у 1980 Калечыц і М. У. Бычкоў.

Знойдзены крамянёвыя прылады працы (скрабкі, долатападобныя і сякерападобныя прылады, нуклеусы), кераміка, упрыгожаная грабеньчатым, ямчатым і лінейным арнаментам.

Датуецца 3-м тыс. да н. э.

Паселішча-3 верхнедняпроўскай культуры. За 1 км на З ад пасёлка, ва ўрочышчы Курган, на задзернаваных дзюнах. Адкрыў у 1926 Палікарповіч, даследавалі ў 1965 Арцёменка, у 1976 Калечыц. Культурны пласт у асобных месцах да 0,4 м. Знойдзена кераміка з грабеньчатым, ямчатым, лапчастым і лінейным арнаментам. Датуецца 3-м тысячагоддзем да н. э.

Бескурганны могільнік *сярэднедняпроўскай культуры*. На паселішчы-2. Адкрыў і даследаваў 3 магілы ў 1965 Арцёменка, у 1980 абследавалі Калечыц і Бычкоў. Пахавальны абрад — трупаспаленне і трупапалажэнне, нябожчыкі густа пасыпаны вохрай. У адной з магіл знойдзены ляпная пасудзіна, 9 бурштынавых падвесак і меднае скроневае кольца. Сярод знаходак наканечнікі стрэл, сякеры, нажы, скрабкі. Ёсць звесткі пра знаходку бронзавага кельта. На паверхні сабрана шмат чалавечых касцей. Л. І. Цягака і І. І. Салівон даследавалі чэрап, які добра захаваўся і належаў чалавеку невысокага росту са слаба выражанымі манголоіднымі рысамі, характэрнымі для сучаснага фіна-угорскага насельніцтва. Могільнік датуецца 2-м тыс. да н. э.

*Літ.:* 479, 863, 1167.

*А. Г. Калечыц.*

**ПРАМІ́ЛЕ** (ад лац. pro mille за тысячу, тысячная частка, $^1/_{10}$ працэнта) у нумізматыцы, звычайнае вызначэнне пробы ў *метрычнай сістэме проб*. Пазначаецца знакам $^0/_{00}$.

**ПРАНІ́ЗКІ,** бронзавыя спіралькі, якімі ўпрыгожвалі адзенне (дыяметр 3—12 мм). Найб. распаўсюджанне мелі ў 7—13 ст., найчасцей у латгалаў, земгалаў, ліваў, селаў, крывічоў. Рабілі П. з круглага, плоскага, плоска-пукатага ці трохвугольнага ў сячэнні дроту. Даўж. П. 3—50 мм. Іх ушывалі ці ўплятаі ў жаночае і мужчынскае адзенне, утвараючы іншы раз арнаментальныя матывы. З П. рабілі вяночкі на галаву (вайнага), шыйныя каралі, спалучаныя са званочкамі, бразготкамі ці шклянымі пацеркамі. Вядомы таксама суцэльналітыя шкляныя пацеркі-П., знешне падобныя да бронзавых П. На тэр. Беларусі П. 11—12 ст. знаходзяць у Віцебскай і на Пн Мінскай абласцей.

*Літ.:* 1248. *Л. У. Дучыц.*

**ПРАПО́ЙСКІ ЗА́МАК.** Існаваў у 13—18 ст. З'яўляўся цэнтрам абароны сярэдневяковага Прапойска (з 1945 *Слаўгарад*). Займаў выцягнутае з Пн на Пд гарадзішча (95×40 м) стараж. Прупоя, ці Прапошеска, якое размяшчалася на стромкім беразе Сажа, недалёка ад упадзення ў яго р. Проня.

Прапойск праходзіў доўгі этап фарміравання як горад, што адбівалася і на структуры яго ўмацаванняў. Спачатку тут быў абарончы частакол, з 12 ст.— невял. вал выш. 1 м і шыр. 4 м у аснове, на вяршыні якога стаяў дубовы частакол. У 13 ст. вал падсыпалі на 2 м, расшырылі яго аснову і паставілі на ім зрубленыя сцены. Пляцоўкі пасада, што разрослся пад аховай дзядзінца, да 14 ст. стала ўжо не хапаць. Горад перасягнуў зах. абарончы роў і пачаў развівацца на суседнім узвышшы. Паводле гіст. крыніц, у 14—17 ст. замак і горад мелі драўляныя ўмацаванні, узводзіць і рамантаваць якія абавязаны былі жыхары «места Пропойского с волостью». Як і інш. парубежныя гарады Пасожжа, Прапойск разам з валасцю спачатку адносіўся да велікакняжацкіх зямель, якімі кіравалі намеснікі, потым знаходзіўся ў «держаньи» ў спец. назначаных вял. князем дзяржаўцаў — старостаў. Яны павінны былі сачыць за станам і рамонтам умацаванняў, клапаціцца пра ўтрыманне гарнізона і ўзбраенне. Паводле гіст. крыніц, намеснікам Прапойска ў 1518 быў кн. Сямён Андрэевіч Чартарыйскі. У грамаце вял. князя ВКЛ і караля Польшчы Жыгімонта І Старога ад 29.12.1518 указвалася, што намеснік «...срубил нам у Пропойску замок тамошними людьми нашими Пропойчичаны и Чычераны, а к тому своим накладом збудовати нам ся поднял». За такую значную паслугу кароль задаволіў чалабітную князя аб перадачы яму ва ўтрыманне гэтых зямель. У ваенны час у П. з. быў невял. пастаянны гарнізон з 10—20 казакоў на чале з ротмістрам. Гарнізон і замак існавалі за кошт часткі прыбыткаў са староства. Паводле велікакняжацкага распараджэння, у шэрагу парубежных гарадоў, у т. л. і ў Прапойску, з 1561 пачалі трымаць дадатковыя «почты» коннікаў. Яны былі ўзброены найноўшай ручной агнястрэльнай зброяй — «губчастымі ручшцамі», якія цэнтралізавана пастаўляліся сюды з Вільні разам з амуніцыяй і гакаўніцамі. Ахова замка і валасці, акрамя казакоў, ляжала і на мясц. баярах, што неслі конную службу «на самом рубеже». Першае ўпамінанне пра артылерыю ў П. з. адносіцца да 1529, калі староста прапойскі і чачэрскі даставіў у Вільню гарадніччаму «спижи от дела горелое на замку Пропойском». У сувязі з вострай нястачай сыравіны дастаўка на Віленскі пушкарскі двор старых, гарэлых і пашкоджаных медных гармат для рамонту і пераплаўкі з'яўлялася абавязковай умовай. Дакладная колькасць пушкароў у П. з. ў 16—17 ст. невядомая (у дакументах за 1576 называецца пушкар Міхаіл Лімоўскі). Тут іх, відаць, было некалькі, як і ў суседніх Крычаўскім і Чачэрскім замках. Велікакняжацкая ўлада пастаянна трымала ў полі зроку парубежны П. з. і для кантролю за яго станам і справамі пасылала спец. рэвізораў і «справцов господарских». З іх перапіскі з вял. князем і з дакументаў за 1564 відаць, што ў П. з. былі драўляныя вежы і сцены, абмазаныя глінай «до бланкованья», вежа-брама і пад'ёмныя масты-«ўзводы». Адзін з мастоў быў перакінуты цераз зах. абарончы роў і, відаць, упіраўся ў праезную вежу. У 1564 «справца» Б. Ц. Пузына дакладваў вял. князю ВКЛ і каралю Польшчы Жыгімонту ІІ Аўгусту, што «господарский замок Пропойск на колку месцах велми опал и не обмазан, ворота и взводы потребуют лепшего поправленя». Звесткі пра колькасць вежаў у П. з. адсутнічаюць. Аднак паводле яго планавай структуры можна меркаваць, што на перадграддзі і пры ўездзе ў замак стаяла па адной вежы-браме, а з боку поля — вуглавая «кутная вежа». Па грэбені вала, які ішоў у паўд. напрамку, над абарончым ровам размяшчаліся замкавыя гародні. Яны ўніраліся, відаць, на вуглу ў паўд. вежу. Своеасаблівы выступ у лініі гародняў, які мелі даўж. каля 100 м, дае падставу меркаваць пра існаванне яшчэ адной, прамежкавай вежы. З Пд і У замак прыкрываўся стромкім 20-метровым абрывам у бок Сажа. Дзякуючы выключнай прыроднай умацаванасці вежаў тут не было, хаця інвентар замка 17 ст. называе «форту у паркане до воды». Пасля разбурэнняў у руска-польскую вайну 1654—67 горад і замак доўга не маглі дасягнуць ранейшага стану. Аднак П. з., відаць, усё ж не страціў свайго ваеннага значэння. Інвентар за 1681 зафіксаваў замак як невял. ўмацаванне, абгароджанае «палямі». Згадваюцца «брама, драницами крытая», «форта у паркане до воды», жылыя і гасп. пабудовы (хаты белыя, піўніца, 2 свірані, сыраварня, пякарня, 3 стайні, лазня, шопа). Перад замкам быў вял. агарод, абнесены «дылямі». Вакол горада былі «городьба» і «брамы», якія, як і «паркан замковый», ставілі жыхары Прапойска і валасці. У 1681 у горадзе толькі 104 двары. У канцы 17 — пач. 18 ст. ў выніку хуткага развіцця артылерыі і фартыфікацыі Прапойск страціў сваё стратэгічнае значэнне ў Пасожжы на мяжы з Расійскай імперыяй, што поўнасцю пацвердзілася ў Паўн. вайну 1700—21. Аднак яшчэ ў 1780 тут упамінаўся «замок окруженный полисадом». Пасля далучэння Усх. Беларусі да Расійскай імперыі (1772) Прапойск быў падараваны Кацярынай ІІ кн. А. М. Галіцыну. У канцы 18 ст. ў выніку праведзенай князем на пляцоўцы замчышча планіроўкі зніклі абарончыя валы і рэшткі стараж.

замка, якія цяпер можна прасачыць толькі шляхам археал. даследаванняў.
*М. А. Ткачоў.*

**ПРАСКУРНІ,** археал. помнікі каля в. Праскурні Жлобінскага р-на.

Гарадзішча. За 2 км на Пн ад вёскі. Умацавана 2 валамі. Даследавалі ў 1900 Е. Р. Раманаў, у 1957 В. М. Мельнікоўская. Знойдзены кераміка ранняга жал. веку, кавальскія прылады (кавадлы, малаткі, абцугі) сярэдневяковага перыяду. Гарадзішча знаходзілася ў зоне кантактаў зарубінецкай, мілаградскай і штрыхаванай керамікі культур.

Паселішча жал. веку. За 1 км ад вёскі. Абследавала ў 1957 Мельнікоўская. Знойдзены крамянёвыя адшчэпы, наканечнікі стрэл, шліхтаваныя каменныя прылады працы, ляпны посуд.

Курганны могільнік радзімічаў. Побач з гарадзішчам. Даследаваў 6 насыпаў каля 1910 Раманаў. У 5 насыпах пахавальны абрад трупапалажэнне, у адным — трупаспаленне. У кургане з трупапалажэннем знойдзены грыўні, бранзалеты, пацеркі, 7-прамянёвыя скроневыя кольцы. Датуецца 11 ст.

*Літ.*: 895, 980.
*Г. В. Штыхаў.*

**ПРА́СЛІЦА,** праселка, прасельца, гліняны або каменны грузік з круглай адтулінай у цэнтры, які надзяваўся на верацяно, каб павялічыць інерцыю і хуткасць яго вярчэння. Паявіліся ў познім неаліце з узнікненнем прадзіва і ткацтва. Напачатку П. выраблялі з гліны. Былі біканічныя, цыліндрычныя, гаршка-, груша-, катушка-, шарападобныя і інш. форм, іх упрыгожвалі разнастайным арнаментам. На Беларусі самае стараж. П. (канец 3-га тысячагоддзя да н. э.) знойдзена на гарадзішчы *Юравічы.* Мела арнамент у выглядзе наколаў. У жал. веку на П. наносілі геаметрычны арнамент, які па тэхніцы выканання быў наразным і накольчатым у выглядзе трохвугольнікаў, размешчаных у шахматным парадку, ромбаў, канцэнтрычных кругоў, аднабаковай і двухбаковай ялінкі і інш. (напр., П. з гарадзішча *Чаплін*). У раннім сярэднявеччы П. выраблялі з ружовага і шэрага сланцу, прыродныя паклады якога знаходзяцца на Украіне (гл. *Шыфер аўруцкі*), радзей з гліны. На некаторых П. былі меткі ў выглядзе літар, крыжыкаў і інш. Сустракаюцца П. з надпісамі, напрыклад «Бабино праслен» (Віцебск, 11—12 ст.), «Настасино праслънь» (Пінск, 11—12 ст.), «[Господи] помози рабе своей» (Гродна, 13 ст.), «Ника» (12 ст.), «Княжинъ» (Друцк, 12—13 ст.).

*Літ.*: 40, 49, 482, 705.
*Т. М. Каробушкіна.*

**«ПРА́ЦЫ АРХЕАЛАГІ́ЧНАЙ КАМІ́СІІ»,** зборнік матэрыялаў па археалогіі Беларусі (т. 2, 1930) серыйнага выдання *«Запіскі аддзела гуманітарных навук»* (кн. 11), які выйшаў у Мінску. Змяшчае матэрыялы па асн. напрамкі археал. даследаванняў.

Вывучэнню помнікаў палеаліту прысвечаны артыкулы Г. Ф. Мірчынка «Геалагічныя ўмовы знаходжання палеалітычнай стаянкі каля в. Бердыжа на р. Сажы (Гомельшчына)», В. І. Громава «Фауна Бердыжскай палеалітычнай стаянкі (па раскопках 1926—1927 гг.)», С. М. Замятніна «Раскопкі Бердыжскай палеалітычнай стаянкі ў 1927 г.», К. М. Палікарповіча «Нова-Бабовіцкая палеалітычная стаянка», «Раскопкі Юравіцкай палеалітычнай стаянкі ў 1929 г. Папярэдняе паведамленне». Значны паводле аб'ёму і канкрэтны паводле зместу матэрыял пра помнікі



Гліняныя **прасліцы** з гарадзішча Мыслі.





Шыферныя **прасліцы** 12 ст. з надпісамі. Друцк. Надпіс НИКА на **прасліцы.**

розных эпох ёсць у артыкулах Палікарповіча «Дагістарычныя стаянкі сярэдняга Сажа. Матэрыялы абследавання 1927 г.», А. Дз. Кавалені і С. С. Шутава «Матэрыялы з дагісторыі Тураўшчыны» (пра гарадзішча ў Тураве, абследаванне помнікаў Казаргаць, *Пагост, Рычаў, Сямурадцы, Хільчыцы*). Звесткі пра помнікі жал. веку і перыяду феадалізму — у артыкулах С. А. Дубінскага «Чаркасоўскае гарадзішча пад Оршай», «Гарадзішча каля в. Германоў Аршанскай акругі» Дз. І. Даўгялы «Аршанскі замак (Экскурс у гісторыю ўзнікнення яго ўмацаванняў)», А. М. Ляўданскага «Археалагічныя доследы ў Аршанскай акрузе», «Археалагічныя доследы ў Віцебскай акрузе», «Археалагічныя доследы ў Полацкай акрузе», «Археалагічныя доследы ў Барысаве» (вынікі даследаванняў гарадзішчаў у Полацку, Віцебску, Оршы, курганных могільнікаў у Чаркасаве, *Старым Сяле, Бельчыцах, Гаравых, Рудні, Барысаве* і інш.), І. А. Сербава «Археалагічныя помнікі Дубровенскага раёна Аршанскай акругі», і інш. Змешчаны нататкі



Крыжападобнае **прасліца** з гарадзішча Ліскі (Рэчыцкі р-н).

Дубінскага пра археал. раскопкі 1928—29, І. Х. Юшчанкі — пра даследаванні ў Гомельскай акрузе.
*Г. В. Штыхаў.*

**«ПРА́ЦЫ КАФЕДРЫ АРХЕАЛО́ГІІ»,** зборнік матэрыялаў па археалогіі Беларусі (т. 1, 1928), змешчаны ў серыйным выданні *«Запіскі аддзела гуманітарных навук»* (кн. 5), які выйшаў на бел. мове ў Мінску.

У арт. А. М. Ляўданскага «Археалагічныя раскопкі ў м. Заслаўі Мінскай акругі» пададзена методыка раскопак гарадзішча і курганных могільнікаў, падрабязна апісаны пахавальныя абрады і пахавальны інвентар. Аўтар датаваў помнікі каля Заслаўя 11 — пач. 12 ст., сцвярджаў, што яны пакінуты мяшаным крывіцка-дрыгавіцкім насельніцтвам, што тут праходзіла кантактная мяжа паміж *крывічамі* і *дрыгавічамі.* Гарадзішча лічыў невял. умацаваным пунктам (крэмль), які з'яўляўся цэнтрам грамадскага і рэлігійнага жыцця, а ў выпадку небяспекі служыў сховішчам для навакольнага насельніцтва. У арт. А. А. Смірнова «Асноўныя дыяметры і тып серый чарапоў курганнага перыяду (Раскопкі ў Заслаўскім, Ухлясцкім і Мінскім раёнах)» на значных фактычных матэрыялах абгрунтоўваецца думка, што курганы належалі славянам (дрыгавічы і крывічы) і датуюцца 10—12 ст. У арт. Дз. Даўгялы «Заслаўе на Міншчыне» зроблен гістарыяграфічны агляд літаратуры пра Заслаўе, сцвярджаецца, што горад заснаваны ў пач. 12 ст., а першыя звесткі

пра яго аднасяцца да 2-й чвэрці 12 ст. (не старэй Барысава, Лагойска, Стрэжава і інш.). Тэматычна да папярэдніх прымыкае арт. С. А. Дубінскага «Дадатковыя раскопкі курганоў у Заслаўі». Важнае значэнне мае праца К. М. Палікарповіча «Дагістарычныя стаянкі сярэдняга і ніжняга Сажа (па доследах 1926 г.)», якая фактычна з'яўлялася археал. картай помнікаў каменнага і бронзавага вякоў пэўнага рэгіёна Беларусі. У ёй указаны месцазнаходжанне стаянак ( з прывязкай да ўрочышчаў і населеных пунктаў), апісаны крамянёвыя прылады працы і кераміка, зроблена іх класіфікацыя. Артыкул багата ілюстраваны фатаграфіямі і малюнкамі. Адкрыццё Бердыжскай палеалітычнай стаянкі дазволіла зрабіць вывад пра засяленне тэр. Беларусі з эпохі верхняга палеаліту. У раздзеле «Археалагічная праца на Беларусі за 1919—1928 гг.» надрукаваны арт. Дубінскага «Дзейнасць аргашзацый...» і «Доследы культур жалезнага перыяду па Віцебшчыне, Магілёўшчыне і Міншчыне», Палікарповіча «Доследы культур каменнага і бронзавага перыядаў ва Усходняй Беларусі», Ляўданскага «Археалагічныя доследы ў Смаленскай губерні за 1918—1928 гг.». У іх прыведзены справаздачы краязнаўчых і навук. арганізацый, падкрэслена, што вылучэнне са складу гіст.-археал. камісіі ў 1927 археал. камісіі, большая самастойнасць яе работы, павелічэнне сродкаў, стварэнне кабінета па апрацоўцы археал. матэрыялаў і фоталабараторыі далі магчымасць ахапіць археал. даследаваннямі помнікі ўсіх перыядаў стараж. гісторыі Беларусі, а паспяховыя вынікі гэтых даследаванняў надрукаваць у гэтым зборніку. У канцы тома змешчаны геаграфічны паказальнік.

*У. Дз. Будзько.*

**«ПРА́ЦЫ ПЯ́ТАГА МІЖНАРО́ДНАГА КАНГРЭ́СА АРХЕО́ЛАГАЎ-СЛАВІ́СТАЎ»,** зборнік дакладаў, падрыхтаваных да кангрэса археолагаў-славістаў, які адбыўся ў Кіеве 18—25.9.1985. Выдадзены ў 4 тамах (т. 1, 3, М., 1987; т. 2, 4. Кіеў, 1988) на рус. мове. Прысвечаны пераважна паходжанню і эвалюцыі горада ранняга сярэднявечча.

У 1-м томе надрукаваны даклады археолагаў Беларусі: Вал. А. Булкіна «Гісторыка-геаграфічныя дадзеныя да праблемы ўзнікнення гарадоў Днепра-Дзвінскага міжрэчча», В. М. Ляўко «Сацыяльна-тапаграфічная і планіровачная структура беларускага феадальнага горада (па матэрыялах Віцебска)», Г. В. Штыхава «Крытэрыі горада эпохі Кіеўскай Русі (па матэрыялах Полацкай зямлі)». У 2-м томе надрукаваны даклады бел. археолагаў: Ф. Д. Гурэвіч «Аб асаблівасцях культуры гарадоў Беларускага Панямоння ў XII—XIII стст.», П. А. Русава «Новыя дадзеныя пра жылыя пабудовы Мінска XII — XIII стст.», М. Ф. Гурына «Кавальскае рамяство ў сярэдневяковых гарадах Беларусі», Л. У. Дучыц «Гарадзішча Маскавічы (да пытання аб парубежных пунктах Полацкага княства)», Я. Г. Звяругі «Некаторыя вынікі параўнаўчага вывучэння старажытнарускіх гарадоў Панямоння», Т. М. Каробушкінай «Насельніцтва Беларускага Пабужжа ў X — XIII стст.», Я. Р. Рыера «Старажытнаруская вёска ў археалагічных даследаваннях», а таксама рус. археолага Я. А. Шміта «Да пытання аб этнічным складзе насельніцтва Смаленскага Падняпроўя і Падзвіння ў IX — X стст.». У 3-м томе надрукаваны даклады бел. вучоных П. Ф. Лысенкі «Бярэсце», Т. С. Скрыпчанка «Абмен і мясцовая вытворчасць у сярэдневяковых гарадах Беларусі (па матэрыялах шкляных бранзалетаў)», М. А. Ткачова, Л. У. Калядзінскага, Т. С. Бубенькі «Сярэдневяковы Віцебск», Л. Р. Панічавай «Беларуская кафля XIV — XVII стст.». У 4-м томе — даклады А. А. Егарэйчанкі «Плямёны культуры штрыхаванай керамікі і славянскі свет (да пытання аб этнічнай прыналежнасці носьбітаў культуры)», Л. Д. Побаля «Старажытная Русь і славяне».

*Г. В. Штыхаў.*

**«ПРА́ЦЫ СЕ́КЦЫІ АРХЕАЛО́ГІІ»,** зборнік матэрыялаў па археалогіі Беларусі (т. 3, 1932), выдадзены на бел. мове ў Мінску.

Адкрываецца нарысам А. М. Ляўданскага «Археалагічныя доследы ў Смаленшчыне», прысвечаным навук. аналізу археал. абследаванняў С. М. Сакалоўскага ў Рослаўскім пав. ў 1902—27. У нарысе падрабязна апісаны знаходкі з курганных могільнікаў і гарадзішчаў, асобныя каменныя прылады працы; курганныя старажытнасці аднесены да 11 ст., іх этнічная прыналежнасць вызначана як крывіцкая. У арт. Г. Ф. Дэбеца «Чарапы Люцынскага могільніка старажытных славян Беларусі і месца апошніх у палеаантраналогіі Усходняй Еўропы» на падставе шматлікіх матэрыялаў сцвярджаецца думка, што ўключэнне тэр. Беларусі ў кола слав. культур не суправаджалася якімі-небудзь значнымі перасяленнямі, а адбывалася шляхам акультурацыі. У нарысе Б. А. Рыбакова «Радзімічы» разгледжаны племянная тэрыторыя радзімічаў, час пражывання, абрады і тыпы пахаванняў, этнавызначальныя прыкметы, узаемаадносіны з суседнімі плямёнамі, летапісныя і іншыя звесткі. Аўтар лічыў, што землі радзімічаў знаходзіліся ў межах сучаснай Беларусі, а мяжа паміж беларусамі і ўкраінцамі праходзіць там, дзе тысячу гадоў таму назад канчаліся радзіміцкія паселішчы і пачыналіся северанскія. Праца Рыбакова, напісаная на грунтоўным гістарычным, археалагічным і этнаграфічным матэрыяле, не страціла свайго навук. значэння. Арт. К. Флаксбергера «Зёрны з Банцараўскага гарадзішча пад Мінскам» прысвечаны аналізу знаходак збожжа с.-г. раслін на гарадзішчы *Банцараўшчына*. У арт. К. М. Палікарповіча «Палеаліт на р. Судасці (вадазбор р. Дзясны)» і «Знаходкі рэштак чацвярцёвай фауны на тэрыторыі БССР» расказваецца пра адкрыццё верхнепалеалітычнай стаянкі *Елісеевічы* (Бранскі р-н), пра археал. разведкі ў басейне Судасці, Іпуці, Дзясны, дадзена карта знаходак чацвярцічнай фауны на тэр. Беларусі, якая была пазней выкарыстана для пошукаў палеалітычных стаянак. У арт. А. Дз. Кавалені «Археалагічныя росшукі ў вярхоўях рэк Друці, Усяж-Бук і Лукомкі» і А. Рынейскага «Археалагічныя разведкі на р. Пціч» надрукаваны матэрыялы для археалагічнай карты Беларусі. У раздзеле «Тэзісы дакладаў да І Усесаюзнага з'езда археолагаў і этнографаў у Ленінградзе» змешчаны матэрыялы Ляўданскага «Археалагічныя доследы ў БССР пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі» і Палікарповіча «Палеаліт і мезаліт БССР і некаторых суседніх краін Верхняга Падняпроўя». Ляўдансні разглядаў помнікі ранняга жал. веку з пункта гледжання іх стадыяльнага развіцця. Ён вылучаў селішчы і бескурганныя (грунтавыя) могільнікі латэнскай эпохі, гарадзішчы са штрыхаванай керамікай пераходнага характару — ад неўмацаваных селішчаў да ўмацаваных паселішчаў без валоў і равоў (рубеж і першыя стагоддзі н. э.), гарадзішчы з земляныміваламі і равамі і позняй гладкасценнай керамікай (6—7 ст. н. э.), гарадзішчы з вял. пляцоўкамі і селішчамі каля іх (8—10 ст., з 10 ст. з'яўляецца ганчарная кераміка) і гарадзішчы раннефеад. пары (11—13 ст.). Стадыяльная схема развіцця гарадзішчаў вытрымала праверку часам, яна актуальна і цяпер. Палікарповіч на базе адкрыцця стаянак *Бердыж* і *Юравічы* зрабіў заключэнне аб засяленні Беларусі ў верхнепалеалітычную эпоху, вылучыў эпохі мезаліту (свідэрскую і хвалібагавіцкую стадыі), выказаў думку аб наяўнасці на тэр. Беларусі макралітычных культур камніны і маглемазэ, даў характарыстыку культур эпохі неаліту і бронзы. У гэтым жа раздзеле змешчаны тэзісы дакладаў М. М. Нікольскага «Этнаграфія ў БССР пасля Кастрычніка» і «Пытанне аб вывучэнні матываў класавай барацьбы ў фальклоры» і М. Я. Грынблата «Вывучэнне раёнаў малога рыбалоўства і рыбацкіх арцеляў». У раздзеле «Хроніка» надрукаваны справаздачы аб археал. даследаваннях, знаходках і археал. нататкі Ляўданскага «Археалагічная праца ў БССР за 1930—1931 гг.», «Кароткае паведамленне аб доследах культур эпохі жалеза ў БССР у 1930—1931 гг.», «Розныя знаходкі»; Палікарповіча «Доследы культур каменнага і бронзавага перыядаў у БССР у 1930—1931 гг.», «Доследы культур каменнага і бронзавага перыядаў у Заходняй вобласці ў 1930—1931 гг.», «Археалагічныя нататкі»; В. Ф. Дружчыца «Комплексная экспедыцыя БАН у чэрвені — жніўні 1931 г. (Лепель, р. Бярэзіна, Бабруйск)»; В. Р. Тарасенкі «Археалагічная праца на Магілёўшчыне ў 1930 г.»; І. А. Сербава «Археалагічная абследаванні ў вадазборах рэк Проні — Ухлясці ў былой Магілёўшчыне»; І. Х. Юшчанкі «Археалагічнае абследаванне р. Брагінкі (вадазбор ніжняй Прыпяці)». У канцы тома змешчаны геаграфічны паказальнік.

*У. Дз. Будзько.*

**ПРО́БА** (ад лац. probo выпрабоўваю, ацэньваю), вагавая доля каштоўнага металу ў сплаве. У залежнасці ад падзелу асн. вагавой адзінкі на традыцыйную колькасць дробных адзінак, прынятага ў канкрэтнай вагавой сістэме, адрозніваюць *лотавую пробу* (у марцы — 16 лотаў), *каратную пробу* (у марцы — 24 караты), *залатніковую пробу* (у фунце — 96 залатнікоў), *метрычную пробу* (у граме — 1000 міліграмаў).

У практыцы манетнай справы напачатку было пашырана выкарыстанне П., якія выражаліся цэлымі лічбамі з дробамі або фракцыямі адпаведнай адзінкі П. (лот дзяліўся на 18 гранаў ці

дэнарыяў, карат — на 18 гранаў, часткі залатніка перадавалі звычайным дробам). Немагчымасць атрымаць аднародны па П. злітак двайнога сплаву вымушала дапускаць пэўныя адхіленні ад П.— *рэмедыум.* У дакументах манетных двароў Рэчы Паспалітай як сінонім П. ўжываўся тэрмін «ліга». Для вызначэння якасных і колькасных паказчыкаў сплаву на манетных дварах бралі П. расплаўленага металу, злітка або паласы, манетнага кружка. Спосабы вызначэння П. металу: мокрая П. вызначаецца па колькасці хлорыстага натрыю, патрэбнай для поўнага выпадзення ў асадак хлорнага серабра з азотнай кіслаты, дзе ёсць лігатурнае серабро (вядома з 15 ст. ў Зах. Еўропе, вызначаецца высокай дакладнасцю); сухая П.— па масе чыстага металу, якая засталася пасля выпальвання лігатурных дамешкаў разам са свінцом на капелі (тыгельку са спрасаваных драўнянага попелу і паленай косці) і раздзялення высакародных металаў (дакладнасць у 2 праміле для серабра і 1 — для золата); гідрастатычная П.— па розніцы вагі вырабу ў асяроддзі рознай шчыльнасці (у вадкасці, паветры), якая для малых вырабаў дае вял. адхіленні; штрыхавая П.— па інтэнсіўнасці колеру асадку хлорнага серабра, які ўтварыўся на прабірным камені з магнітнага жалезняку, мармуру, чорнага базальту, сланцу (прабірны камень вядомы з 6 ст. да н. э.) ад эталоннай іголкі і вырабу невядомай П. (дакладнасць залежыць ад колькасці іголак); П. візуальная — па колеру рысак ад вырабу з высакароднага металу і эталоннай па прабірным камені (выкарыстоўвалася як папярэдняя П., дакладнасць для серабра $^1/_2$ лота — 31 праміле, для золата 1 карат — 42 праміле) і па колеру паверхні вырабу (пашырана ў Кітаі); П. полымем — па змене колеру серабра ў час накальвання (найб. пачарнелае серабро было ніжэйшай якасці, выкарыстоўвалася ў антычнасці); П. дэфармацыяй — па гнуткасці манетнага кружка ў залежнасці ад П. (высакаякасная манета гнецца пальцамі, меней якасная дэфармуецца зубамі). Сучасныя метады вызначэння вагавой долі высакароднага металу (нейтронна-актывацыйны, эмісійна-спектральны, рэнтген-флюарэсцэнтны і інш.) прызначаны для больш шырокай сферы выкарыстання, чым вызначэння толькі П. На вырабах П. пазначаецца кляймом. Кляйменне вядома ў Англіі і Італіі з 15 ст., Францыі з 16 ст., у Рэчы Паспалітай і Расіі з пач. 18 ст., у СССР з 1927 на вырабах з плаціны, з 1956 — з паладыю (гл. ў арт. *Манеты мемарыяльныя СССР).* У археалогіі для вызначэння складу цеста керамічных вырабаў, курганных насыпаў, культурнага пласта бяруць П. рошчыны, глебы, палеарасліннасці і інш.

*Літ.:* 1527, 1528, 1551, 1570, 1625, 1635. *І. І. Сінчук.*

**ПРО́ШЧА,** месца (крыніца, возера, камень, узгоркі і г. д.), надзеленае, паводле ўяўленняў вернікаў, незвычайнымі надпрыроднымі сіламі і ўласцівасцямі. У навук. ўжытак гэты тэрмін увёў у пач. 20 ст. М. А. Янчук. П. называлі таксама маленне аб дараванні грахоў з ахвярапрынашэннямі ў якім-небудзь «святым» ці «цудадзейным» месцы. Вера ў П. генетычна звязана з культам прыроды. Некаторыя П. ўзніклі з язычніцкіх *свяцілішчаў.* Аднак этнографамі зафіксавана ўзнікненне П. і ў 19—20 ст., калі з пэўным месцам звязвалася якая-небудзь падзея, што лічылася цудам (напр., хуткае пазбаўленне ад хваробы). П. пакланяліся, іх наведвалі, каб пазбавіцца ад хвароб, прыносілі ахвяраванні (палатно, ручнікі, кветкі, ежу, грошы і інш.). Значная частка П. была прызнана хрысціянскім духавенствам і знаходзілася пад яго апекай. Каля такіх П. нярэдка будавалі капліцы, цэрквы, касцёлы. У дні рэлігійных свят ладзілі хрэсныя хады і богаслужэнні. Часта П. лічыліся камяні-*следавікі,* некаторыя *камяні з надпісамі* (асабліва з незразумелымі), крыніцы і калодзежы, вада з якіх нібыта вылечвала ад пэўных хвароб (пераважна вачэй), азёры (напр., Свіцязь, а таксама з пашыранай назвай «Святое»), некаторыя *ўзгоркі культавыя* (пераважна самыя высокія ў пэўнай мясцовасці), дрэвы. Найбольш вядомымі П. былі Сіняя крыніца каля Слаўгарада, Святая горка каля Смілавіч (гл. ў арт. *Гудавіцкае свяцілішча*), Мар'іна горка ў Пухавіцкім р-не, нагрувашчванне вялізных камянёў на ўзгорку каля в. Горка Дзятлаўскага р-на, камяні-следавікі пад Навагрудкам, каля в. Мэйры Лідскага р-на, на Траецкай гары ў Мінску, на дарозе са Слуцка ў в. Грозава і інш. Да П. прымыкаюць *камяні чортавы,* камяні змеевы, камяні-краўцы і інш. Каля іх не маліліся, да іх не прыносілі ахвяраванняў, але яны карысталіся ў насельніцтва пэўнай пашанай. На Беларусі П. даследавалі М. В. Доўнар-Запольскі, М. В. Мялешка, Ф. В. Пакроўскі, Е. Р. Раманаў, Янчук, А. Я. Багдановіч.



Да арт. **Прошча.** Камень са «слядамі Багародзіцы і чорта» каля в. Сянежыцы Навагрудскага р-на.

*Літ.:* 813, 909, 982, 1400.

*Э. М. Зайкоўскі.*

**ПРУ́ДНІКІ,** група археал. помнікаў каля в. Пруднікі Міёрскага р-на.

Гарадзішча. За 300 м на ПнЗ ад вёскі, на левым беразе р. Вяты (левы прыток Зах. Дзвіны). Пляцоўка няправільнай авальнай формы памерам 118 ×65 м. З Пн захаваўся вал выш. 4,2 м, шыр. у аснове 20 м, з У — рэшткі вала выш. 0,5 м, шыр. 10 м. Захаванасць помніка добрая, пляцоўка задзернаваная, схілы пакрыты хмызняком. Вядома з канца 19 ст. У 1936 абследавалі Г. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіч, у 1956 Я. Г. Краскоўская, у 1974 шурфоўку праводзілі А. Р. Мітрафанаў, В. І. Шадыра, у 1977, 1983—91 даследаваў Шадыра. Культурны пласт 0,3—3,5 м прасочваецца па ўсёй пляцоўцы. У цэнтры і з усх. боку зроблены раскопкі на пл. 500 м².

Выяўлены рэчы 5—17 ст.: рэшткі жытлаў зрубнай канструкцыі з каменнымі агнішчамі і печамі-каменкамі, шматлікія вырабы з бронзы і медзі (падкowападобныя фібулы з фігурнымі канцамі, бранзалеты, пярсцёнкі, скроневыя кольцы, розныя падвескі, бразготкі, званочкі і інш.), шкляныя каралі (гранёныя і «ў вочкі»), вырабы з косці (шпількі, амулеты, грабяні). Бліжэй да краю пляцоўкі знойдзены матэрыялы 14—16 ст.: плінфы, кафля, шарнірныя нажніцы, нажы і інш.

У паўн.-ўсх. частцы гарадзішча раскапаны 250 м². Тут зафіксаваны характар і этапы абаронччых збудаванняў паселішча, рэшткі крэпасці, пабудаванай у 16 ст. Львом Сапегам (фартэцыя Вята). Шырока прадстаўлена зброя часоў сярэднявечча: наканечнікі стрэл і дзідаў, баявыя нажы, рэшткі даспехаў, наверша булавы, лука, арбалета і інш. Выяўлены культавыя прадметы: крыжыкі, манетападобная падвеска-медальён з выявай Маці Боскай — Аранты, крыж-складзень (энкалпіён) з багатай іканаграфіяй, разнастайныя амулеты. У ніжніх пластах выяўлены фрагменты буйных гладкасценных і шурпатых паліваных гаршкоў, якія формай нагадваюць вядро ці слоік, у верхніх пластах — кругавая кераміка 11—17 ст. Рэчы належаць да 15—17 ст. Матэрыялы 5—11 ст. маюць падабенства з балцкай матэрыяльнай культурай, 11—17 ст.— з славяна-ўсходнебалцкай. У 5—10 ст. тут было ўмацаванае паселішча патрыярхальнай абшчыны, у 11—13 ст.— парубежны пункт (астрог) Полацкага княства, у 14—17 ст.— феад. сядзіба-замак.

Селішча. На левым беразе р. Вяты, каля паўд.-ўсх. падножжа гарадзішча, на невял. узвышшы. Памер 70 × 40 м. Выявіў у 1974 і даследаваў у 1978—80 А. Р. Мітрафанаў, з 1984 раскопкі вядзе В. І. Шадыра. Культурны пласт 0,8—2 м.

Выяўлены рэшткі жытлаў зрубнай канструкцыі з печкамі-каменкамі, шматлікія вырабы з косці, гліны, каменю, бронзы, жалеза. Асаблівую цікавасць выклікаюць касцяная шпілька-амулет з галавой сабакі, падвеска-амулет у выглядзе стылізаванай фігуркі птушкі-качкі, бронзавыя ўпрыгожанні (кольцы, падвескі, шпількі, бранзалеты і інш.), жал. нажы, сярпы, наканечнікі стрэл, дзідаў, шылы з касцянымі ручка-

мі, упрыгожанні і інш., ляпныя гладкасценныя і шурпатыя паліваныя гаршкі ў выглядзе вядра ці слоіка са скразнымі дзіркамі на гарлавіне.

Матэрыялы адносяцца да 3—10 ст., належалі балтам. З прыходам славян жыццё на селішчы спынілася.

*Літ.*: 241, 909, 1312б, 1316, 1317, 1318, 1319. *В. І. Шадыра.*

**ПРУДО́К,** селішча каля в. Прудок Светлагорскага р-на. За 1—1,2 км на У ад вёскі, на першай надпоймавай тэрасе р. Бярэзіны, на беразе старыцы, на ПдУ ад упадзення ў яе ручая. Выявіў у 1976 У. П. Ксяндзоў, раскопкі (302 м²) праводзіла ў 1982 і 1987 Н. М. Дубіцкая. Культурны пласт 0,2—1,3 м. У сваім развіцці селішча прайшло некалькі этапаў. Першы этап адносіўся да эпохі бронзы; знойдзены фрагменты глінянага посуду і крамянёвы інвентар — нажы, загатоўка сякеры, скоблі, рэтушоры, пласціны. Другі этап — 4—8 ст. н. э.— прадстаўлены керамікай з расчосамі і з глянцаваннем, фрагментамі ляпнога посуду, біканічнымі гліністымі прасліцамі, жал. прыладамі працы. У гэты перыяд селішча размяшчалася па берагах ручая. Культурны пласт 0,2—0,3 м. На ўскрайку тэрасы выяўлены рэшткі заглыбленага на 20—25 см зрубнага жытла з печчу-каменкай, складзенай на мацерыку з буйных камянёў без сувязнога матэрыялу. Падлога пясчаная. На 3-м этапе — канец 10—13 ст.— тэр. селішча значна павялічылася. Знойдзены ганчарныя гаршкі і міскі з хвалістым і лінейным арнаментам па корпусе, металічныя прылады працы і ўпрыгожанні: бронзавы літы нацельны крыж, арнаментаваны складаным рэльефным узорам, вітое скроневае кольца, шкляныя пацеркі — залачоная і двайная з глухога жоўтага шкла, белагліняная люлька і інш.

*Н. М. Дубіцкая.*

**ПРУ́СІНАВА,** стаянка каля в. Прусінава Уздзенскага р-на. За 250 м на Пд ад вёскі, на невял. павышэнні правабярэжнага поплава Нёмана, каля паўд. берага старыцы. Выявіў у 1976 М. М. Чарняўскі (ускрыта 32 м²). Культурны пласт таўшч. да 0,6 м. Знойдзены крамянёвы і керамічны матэрыял нёманскай неалітычнай культуры (пераважна яе лысагорскага этапу), на якім адчуваюцца ўплывы верхнедняпроўскай культуры. Пазней на гэтым месцы размяшчалася слав. паселішча часоў Полацкага княства. Матэрыял паселішча ў асноўным прадстаўлены ганчарнай керамікай.

*М. М. Чарняўскі.*

**ПРЫБАЛТЫ́ЙСКАЯ КУЛЬТУРА** (ж у ц а ў с к а я к у л ь т у р а), археал. культура плямён бронзавага веку, якія ў 1-й пал. 2-га тысячагоддзя да н. э. жылі на ПнЗ Беларусі і ПдУ Прыбалтыкі. Насельніцтва займалася паляваннем, рыбалоўствам, збіральніцтвам, жывёлагадоўляй і земляробствам, жыло каля вадаёмаў у прамавугольных жытлах на слупах, з двухсхільным дахам, унутры іх размяшчаліся адкрытыя агнішчы, выкладзеныя камянямі. Пахавальны абрад — трупапалажэнне нябожчыкаў у ямах у скурчаным становішчы; пахаванні адзінкавыя і групавыя. Насельніцтва карысталася крамянёвымі прыладамі працы і зброяй (трохвугольныя наканечнікі стрэл, скрабкі, нажы і інш.), выраблялa каменныя шліфавальныя сякеры лодкападобнай формы з прасвідраванымі адтулінамі, свідраваныя матыкі. Сярод керамічных вырабаў найб. пашыранымі былі гаршкі з выразнай шыйкай і амфары, арнаментаваныя гарызантальнымі шнуравымі адбіткамі, насечкамі, нарэзкамі, наколамі, ляпнымі гафрыраванымі каўнерыкамі-валікамі. Сярод упрыгожанняў — падвескі з прасвідраваных зубоў жывёл, бурштынавыя трубачкі-пацеркі, кружкі з адтулінамі, стылізаваныя фігуркі чалавека і інш. На бел. Панямонні найб. выразныя матэрыялы П. к. выяўлены на стаянках *Лічыцы, Ярэмічы, Русакова,* у пахаваннях каля пас. Краснасельскі.

*Літ.*: 847. *М. М. Чарняўскі.*

**ПРЫБАР,** група археал. помнікаў каля в. Прыбар Бялыніцкага р-на.

С т а я н к а-1 позняга неаліту. За 400 м на У ад вёскі, 1 км на ПнЗ ад вусця р. Вабіч (левы прыток р. Друць), на 1-й надпоплаўнай тэрасе правага берага Друці. Выш. тэрасы над поплавам 2—3 м. Адкрыў у 1980 і даследаваў 130 м² у 1981—82 В. Ф. Капыцін. Культурны пласт 10—20 см.

Выяўлены шматлікія крамянёвыя прылады працы: тронкавыя і ромбападобныя наканечнікі стрэл і дроцікаў, вастры, праколкі, рэтушны разец, ножападобныя пласціны з рэтушшу, сякучыя прылады, скрабкі канцавыя, закругленыя, са скошаным рабочым канцом, камбінаваныя прылады — скрабкі ў спалучэнні з праколкай або з выемкай, прадукты расшчаплення крэменю (нуклеусы, сколы ўдарных пляцовак, адшчэпы, пласціны, дробныя асколкі, лускавінкі), вастрадонны посуд з прамымі ці злёгку адагнутымі венчыкамі, арнаментаванымі ямачкамі круглай і прамавугольнай формы, адбіткамі дробназубчастага грэбеня, якія ўтваралі ўзор у елачку.

Існавала 5—4 тыс. г. таму назад.

С т а я н к а-2 позняга неаліту. За 700 м на ПдУ ад вёскі, 500 м на Пд ад стаянкі-1, на 1-й надпоплаўнай тэрасе правага берага р. Друць, на беразе возерападобнага расшырэння русла. Адкрыў у 1980 і даследаваў 35 м² у 1982 Капыцін. Памер 170×30 м. Культурны пласт 10—20 см.

Знойдзены дзюбападобныя і рэжучыя вастры, разцы (рэтушныя, двухгранныя і на рагу зламанай загатоўкі), праколкі, нажы, пласціны-ўкладышы, вырабы з выемкамі, канцавыя скрабкі з пласцін і адшчэпаў, клінападобныя сякеркі з крэменю і дыярыту з шліфаваным лязом, нуклеусы і іх абломкі, пласціны, адшчэпы, дробныя асколкі і лускавінкі. Выяўлены фрагменты керамічнага посуду з прамымі і закругленымі венчыкамі, арнаментаванага ямачкамі, адбіткамі дробназубчастага штампа, што ўтварае ўзор у елачку або вертыкальныя рады.

К у р г а н н ы  м о г і л ь н і к эпохі Кіеўскай Русі. За 500 м на З ад вёскі, на правым беразе Друці, каля дарогі на в. Калінаўка. Размешчаны на селішчы ранняга жал. веку. 54 насыпы ў 1930 выявіў А. Дз. Каваленя. Абследавалі ў 1975 Я. Р. Рыер, у 1982 В. Ф. Капыцін. Захавалася 12 насыпаў выш. 0,5—2 м, дыям. 3—8 м. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.*: 471, 577. *В. Ф. Капыцін.*

**ПРЫ́БАР,** археал. помнікі каля в. Прыбар Гомельскага р-на.

Г а р а д з і ш ч а мілаградскай і зарубінецкай культур эпохі Кіеўскай Русі. Насупраць вёскі, на краі тэрасы левага берага р. Уза. Мясц. назва Гарадок. Пляцоўка авальная, памер 40×25 м. З Пд захаваліся рэшткі вала выш. 0,7—1 м. Абследаваў у 1981 С. Я. Расадзін. Культурны пласт у шурфе 0,5 м. Знойдзены рэшткі ляпнога і ганчарнага посуду, перапаленыя камяні.

К у р г а н н ы  м о г і л ь н і к. Ва ўрочышчы Белыя магілы. У 1890 М. М. Філонаў раскапаў некалькі курганоў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне. Знойдзена шмат шкляных, пазалочаных, сердалікавых пацерак, званочкі, 3 плясктыя бронзавыя пярсцёнкі з арнаментам, арнаментаваны бранзалет, бронзавыя кольцы, гузікі з волава ў выглядзе гірак, 2 шыферныя прасліцы, гліняны гаршчок. Адносіцца да канца 10 — пач. 12 ст.

*Літ.*: 981.

*С. Я. Расадзін, А. А. Макушнікаў*

**ПРЫ́БАР,** археал. помнікі каля в. Прыбар Кіраўскага р-на.

С т а я н к а эпохі мезаліту. На паўдн. ускраіне вёскі, за 100 м на У ад дарогі на в. Шмакі, на 1-й надпоймавай тэрасе правага берага р. Друць. Памер 150×25 м. Адкрыў у 1982 і даследаваў у 1987 В. Ф. Капыцін. Ускрыта 16 м² культурнага пласта.

Выяўлены канцавыя скрабкі, рэтушныя разцы, вырабы з выемкай, пласціны і адшчэпы з рэтушшу, прадукты расшчаплення крэменю. Значная колькасць крамянёвых знаходак абпаленая.

К у р г а н н ы  м о г і л ь н і к эпохі Кіеўскай Русі. За 1 км на Пд ад вёскі, у хваёвым лесе, каля дарогі Прыбар — Шмакі. Адкрыў у 1982 і абследаваў у 1987 Капыцін. 5 насыпаў выш. 1—1,2 м, дыям. 13—15 м. Курганы аплылі, параслі дрэвамі. Раскопкі не праводзіліся.

*В. Ф. Капыцін.*

**ПРЫБРЭ́ЖНАЕ,** археал. помнікі

каля в. Прыбрэжнае Бярэзінскага р-на.

Гарадзішча. У цэнтры вёскі, на правым беразе р. Бярэзіна, на мысе, утвораным ракой і безназоўным ручаём, ва ўрочышчы Гарадок. Выш. над поплавам 20 м. Пляцоўка памерам 40×35 м, з боку поля ўмацавана валам выш. 5—6 м, шыр. 15—20 м і ровам, які значна аплыў. Невялікі вал выш. каля 0,5 м захаваўся ўздоўж усх. і паўд. краёў. Адкрыў і даследаваў у 1928 А. Рынейскі, абследавалі ў 1929 І. Р. Калюдкін і М. М. Канвісараў, якія знайшлі штрыхаваную кераміку. У 1963 разведачныя работы правозіў Л. Д. Побаль. Культурны пласт у шурфе 0,3—1 м.

Знойдзена кераміка зарубінецкай, мілаградскай, штрыхаванай керамікі і банцараўскай культур, сярэбраная спражка, фрагмент бронзавага арнаментаванага бранзалета, шлак, абпаленае каменне, вуголле, попел.

Селішча. Каля паўн.-зах. боку гарадзішча. Пл. каля 0,5 га. Адкрыў у 1928 А. Рынейскі. Абследавалі ў 1963 Побаль, у 1979 Т. С. Бубенька. Сабраныя на паверхні матэрыялы, аналагічныя рэчам, знойдзеным на гарадзішчы.

*Літ.*: 330, 1024. *Т. С. Бубенька.*

**ПРЫЛА́ДЫ ПРА́ЦЫ,** спецыяльна апрацаваныя чалавекам рэчы, пры дапамозе якіх ён уздзейнічае на іншыя, узятыя з навакольнай прыроды (на прадметы працы), з мэтай выкарыстання іх для сваіх патрэб (падтрымкі існавання, здабычы ежы і сыравіны, будаўніцтва і інш.). Чалавек вылучыўся з жывёльнага свету, калі навучыўся вырабляць П. п., і змяняўся па меры іх удасканалення, развіцця тэхналогіі апрацоўкі. У працэсе працы вельмі павольна змяняліся рука, постаць, аб'ём і якасць галаўнога мозгу — фізічны тып чалавека (архантрап — палеантрап — неаантрап). Ад адной эпохі да другой удасканальваліся форма, памеры, апрацоўка і асартымент П. п., пашыраліся іх комплексы, для вытворчасці выкарыстоўваліся камень, медзь, бронза, потым жалеза, дрэва, косць, рог і інш. матэрыялы. Вытворчасць магла ажыццяўляцца толькі ў абшчыне, дзе чалавек як сацыяльная істота павінен быў абменьвацца вытворчым вопытам і дзе складваліся пэўныя вытворчыя і грамадскія адносіны. Адпаведна развіваліся мысленне, мова, культура продзін.

Стараж. майстар імкнуўся павялічыць зручнасць, вытворчую здольнасць, эфектыўнасць П. п. («назапашаная праца»). Гэта вяло да змяншэння «жывой працы» — часу, неабходнага для вытворчасці пры дапамозе П. п. адзінкі прадукцыі. Станаўленне чалавека, выраб П. п. пачаліся 3—2,5 млн. г. таму назад у Афрыцы (гл. *Каменны век*). На працягу многіх тысячагоддзяў П. п. выраблялі з каменю, дрэва і косці. Спачатку чалавек наносіў па крамянёвай гальцы некалькі ўдараў, каб атрымаць вастрыё або рэжучы край. У выніку ўтваралася т. зв. «галечная прылада» (алдувайская эпоха). На працягу наступных 3 эпох (дашэльская, шэльская, ашэльская) выпрацоўвалася тэхніка расшчаплення крэменю і паслядоўнае абіванне нарыхтовак для атрымання ўдарных прылад, *рубілаў, разцоў*. Вядома каля 10 іх тыпаў. У сярэднім палеаліце, у мусцьерскую эпоху (150—35 тыс. г. таму назад) спачатку, абіваючы дыскападобныя *нуклеусы*, неандэртальцы (палеантрапы) нарыхтоўвалі грубыя *адшчэпы*, потым лёгкімі ўдарамі наносілі на іх рэтуш і надавалі прыладзе пэўную форму (гл. *Апрацоўка крэменю).* Прасочваецца імкненне прытрымлівацца прататыпу, вобраз якога быў замацаваны ў памяці і перадаваўся нашчадкам. Выпрацоўваліся *вострраканечнікі, скрэблы*, масіўныя *нажы, скрабкі, скоблі*. Вядома каля 20 тыпаў такіх прылад. Якасна новы этап пачаўся ў познім палеаліце (35—11 тыс. г. таму назад) з авалоданнем тэхнікай атрымання пласцін з прызматычных нуклеусаў. Неаантрапы (краманьёнцы) выраблялі з пласцін больш за 100 тыпаў удасканаленых прылад (наканечнікі дзідаў, разцы, нажы, скрабкі, скоблі, *праколкі*, свердлы і інш.), дасягнулі высокага ўзроўню ў *апрацоўцы косці* (праколкі, капалкі, *кінжалы, гарпуны*, дзіды і інш.). Пачалася вытворчасць састаўных прылад — у касцяную ці рагавую аснову замацоўваліся крамянёвыя ўстаўкі, лёзы. Падобная тэхналогія пашырылася ў мезаліце (9—5-е тысячагоддзі да н. э.), калі шырока сталі выкарыстоўвацца *лук* са *стрэламі (наканечнікі* зроблены з пласцін), грубаабабітыя *сякеры* некалькіх тыпаў, касцяныя наканечнікі дзідаў з устаўленымі ў пазы вузкімі крамянёвымі пласцінкамі. Разнастайнымі прыёмамі *апрацоўкі каменю* авалодалі неалітычныя майстры. У шахтах здабывалася высакаякасная крамянёвая сыравіна (гл. *Шахты крэменездабыўныя).* Пры канчатковай апрацоўцы прылад прымянялі плоскае, шлавакатае, струменістае рэтушаванне, шліхтаванне, паліраванне, свідраванне. Былі знойдзены найб. мэтазгодныя формы для ўсіх асноўных П. п.— сякер, цёслаў, *долатаў*, нажоў, разцоў, свердлаў, праколак, *матык, сярпой*, гарпуноў, *вастрый, кручкоў рыбалоўных*, кінжалаў, дзідаў, стрэл і інш. Кожная катэгорыя прылад пэўнага назначэння прадстаўлена некалькімі тыпамі. Адсюль вынікае своеасаблівасць розных археал. культур. На тэр. Беларусі знойдзена каля 300 палеалітычных, некалькі тысяч мезалітычных, амаль 120 тыс. П. п. шэрага культур эпохі неаліту. Удасканаленню каменнай вытворчасці не перашкодзіла паяўленне 6500 г. да н. э. на Блізкім Усходзе першых каваных з самароднай медзі металічных вырабаў. У 4200—3800 г. да н. э. была вынайдзена плаўка медзі (Месапатамія, Балканы), узніклі вытворчыя цэнтры ў Закаўказзі (3500 г. да н. э.), стала вядома бронза (Двурэчча, Іран), першыя вырабы з якой з'явіліся ў Малой і Пярэдняй Азіі. У сувязі з гэтым на Пд і ў цэнтры Еўропы вылучаецца медна-каменны век, энеаліт (3600—2500 г. да н. э.). Бронзавы век у Еўропе (2200—1000 г. да н. э.) супадае па часе з перыядам распаўсюджання бронзавых вырабаў ва Усх. Міжземнамор'і, на Каўказе, Балканах, у Закарпацці. Вытворчасць бронзы вядома з 1500—1200 г. да н. э. ў Венгрыі, Прыкарпацці, у Паўн. Еўропе, у т. л. на Беларусі. Аднак да ранняга жал. веку (пачаўся 1000—600 г. да н. э.) па-ранейшаму панавала вытворчасць каменных прылад. Выраблялася шмат тыпаў каменных свідраваных (баявых) сякер, рабочых плоскіх сякер-клінoў, *молатаў*, матык, крамянёвых наканечнікаў, сярпоў, кінжалаў. Зношаныя і паламаныя палеаметалічныя вырабы звычайна пераплаўляліся, у выніку чаго да нашага часу дайшло ўсяго каля 20 медных і 60 бронзавых рэчаў, выяўленых на Беларусі. Найстаражытнейшая медная прылада — каванае долата канца 3-га тысячагоддзя да н. э.— знойдзена на паселішчы *Барысаўшчына.* У пахаваннях сярэднедняпроўскай культуры трапляюцца П. п. і зброя з медзі або мыш'яковістай бронзы каўказскага паходжання. З 1500 г. да н. э. ў складзе тшцінецкай і лужыцкай культур вядомы рэчы, выплаўленыя з алаяністай бронзы Закарпацця і вобласці ўнеціцкай культуры. Наяўнасць гліняных *ліцейных форм, тыгляў, льячак* і шлакаў сведчыць, што на паселішчах тшцінецкай культуры ўжо займаліся *ліццём* бронзы. Вытворчасць яе была вядома ў больш позні час жыхарам гарадзішча *Мілаград*. Бронзавы век прадстаўлены таксама 50 крамянёвымі сярпамі, дзідамі і кінжаламі. Выяўлена больш за 2,5 тыс. каменных свідраваных і плоскіх сякер (клінoў), цёслаў і толькі 30 свідраваных матык. На некаторых П. п. ёсць імітацыя ліцейнага шва, іншым нададзена 4-граннасць. Падобныя прылады выкарыстоўваліся таксама ў першыя стагоддзі ранняга жал. веку на гарадзішчах. Вядома, што стараж. германцы ў час першых нападаў на рымлян былі ўзброены каменнымі сякерамі. У раннім жал. веку жал. П. п. амаль поўнасцю выцеснілі каменныя. Большая частка прылад, рэчаў побыту, зброя сталі вырабляцца з чорнага металу. Тэхналогія вытворчасці жалезных П. п. паступова ўскладнялася. Крычнае жалеза атрымлівалі з балотных руд у домніцах прамым аднаўленнем пры тэмпературы не вышэй за 1200 °С. Гэта выключала адліўку неабходных у гаспадарцы рэчаў, паколькі крыца магла апрацоўвацца толькі коўкай. Коўка крыц праводзілася на падстаўцы-накавальні з дапамогай каменнага або жал. малатка-кавадла. На раннім этапе ў сувязі з невял. памерамі крыц вырабы з іх таксама былі малыя. Для вытворчасці доўгіх або масіўных прадметаў пракаваныя пласціны, атрыманыя з некалькіх крыц, зварваліся ўнакладку. Часта шляхам шматразовага паўтору коўкі і зваркі выраблялі вял. шматпалосную загатоўку — «пакет». Ужо ў раннім жал. веку з мэтай павышэння цвёрдасці рабочага ляза выкарыстоўвалі цэментацыю, пазней — *загартоўку* некаторых стальных вырабаў. З 10 ст. на Беларусі шырока практыкавалася вытворчасць камбінаваных жалезна-стальных П. п. У 10—11 ст. для вырабу нажа да стальной пласціны прыварваліся жал. палосы, якія забяспечвалі яму трываласць і самазаточванне. З 12 ст. вядучай стала тэхналагічная схема наваркі стальной рабочай часткі на жал. аснову ляза. У вытворчасці камбінаваных і стальных П. п. важная роля належала тэрмічнай апрацоўцы. Тэхналогія наваркі існавала таксама ў эпоху ВКЛ і Рэчы Паспалітай, хаця і павялічваўся выраб су-

цэльна стальных П. п. З жалеза выраблялі цвёрдыя і вострыя сякеры з правушынай, матыкі для апрацоўкі глебы, сярпы, нажы, долаты, шылы. Жал. сякера дазваляла ачышчаць ад лесу значныя ўчасткі, неабходныя для земляробства. Змяніліся прылады для апрацоўкі зямлі, якія цяпер забяспечваліся жал. нарогамі (раламі). Найстараж. жал. нажы мелі гарбатую спінку і нагадвалі сярпы. З'явіліся брытвы ў выглядзе нажа з выпуклым лязом. Жал. скоблі з 2 ручкамі выкарыстоўвалі для здзірання кары з дрэў і габлявання пры сталярных работах. Апрацоўка чорнага металу была вядучай галіной сярэдневяковай прамысловасці і рамесніцтва. У час археал. раскопак гарадоў на Беларусі выяўлена вял. колькасць вырабаў з жалеза і сталі мясц. вытворчасці. Пра яе ўзровень сведчаць разнастайныя катэгорыі П. п., знойдзеных у пластах 10—13 ст.: металаапрацоўчыя (кузнечныя клешчы, матыкі, малаткі, напільнікі, прабойнікі, зубілы, ювелірныя *пінцэты*), дрэваапрацоўчыя (сякеры з шырокім лязом, цёслы, пер'ападобныя свёрлы, долаты, скоблі, разцы для выразання лыжак), для сельскай гаспадаркі і промыслу (сашнікі, вял. сярпы, косы-гарбушы, акоўкі для драўляных *рыдлёвак, восці*, рыбалоўныя кручкі), інш. рамесніцкі інструмент (гарбарныя тупіцы, шылы, шавецкія *іголкі*, спружынныя і шарнірныя *нажніцы*, нажы для апрацоўкі дрэва і звычайныя гасп. з прамым лязом). Металаграфічны аналіз сярэдневяковых жал. рэжучых вырабаў пацвярджае іх высокую якасць. Лязо нажоў, нажніц, кос, сякер і інш. прылад рабілі метадам кузнечнай зваркі жалеза і сталі. У жал. і стальных вырабах шырока выкарыстоўвалі свабодную кавальскую коўку, практыкавалі тэрмічную апрацоўку сталі, рэзку зубілам, прабіўку адтулін, абточку на каменных тачылах, *шліфаванне* і інш. На працягу многіх стагоддзяў эпохі феадалізму шэраг катэгорый жалезных П. п. заставаўся нязменны, вядомы таксама па этнаграфічных матэрыялах. Гл. таксама арт. *Апрацоўка жалеза, Кавальства.*

*Літ.*: 277, 454, 600, 841, 847, 848, 1286.

*У. Ф. Ісаенка, Г. В. Штыхаў.*

**ПРЫЛУКІ,** стаянка эпохі мезаліту (8—5-е тысячагоддзі да н. э.), неаліту (5—3-е тысячагоддзі да н. э.) і могільнік сярэдняй бронзы (1600—1200 г. да н. э.) каля в. Прылукі Брэсцкага р-на. За 2 км на Пд ад вёскі, на пясчаным узгорку правага берага р. Зах. Буг. Выявіў і даследаваў у 1898 М. Ф. Беляшэўскі. Даўж. каля 300 м. Культурны пласт месцамі выходзіць на паверхню. Знойдзена больш за 100 крамянёвых прылад: наканечнікі стрэл (трохвугольныя з выемкай на аснове, тронкавыя, трапецападобныя), пілка, нажы, вастрыі. Сабраны абломкі посуду эпохі неаліту, 2 гаршкі *тшцінецкай культуры* (знойдзены ў разбураных пахаваннях перыяду сярэдняй бронзы).

*Літ.:* 121. *У. Ф. Ісаенка.*

**ПРЫСНО,** комплекс археал. помнікаў каля в. Прысна Веткаўскага р-на.

Паселішча-1 эпохі неаліту (*верхнедняпроўская культура*) і бронзавага веку (*сярэднедняпроўская культура* і *сосніцкая культура*). За 200 м на Пн ад вёскі, ва ўрочышчы Замастоўе. Адкрыў у 1926 Палікарповіч. Раскопкі не праводзіліся.

Паселішча-2 эпохі неаліту і бронзавага веку. За 300 м на У ад вёскі, ва ўрочышчы Бочачкі. Памер 500×200 м. Адкрыў у 1926 Палікарповіч, абследавалі ў 1970—80-я г. А. Г. Калечыц, М. У. Бычкоў. Культурны пласт 0,1 м.

Знойдзены крамянёвыя прылады працы і зброя (сякеры, цёслы, скрабкі, разцы, скоблі, нажы, наканечнікі стрэл і коп'яў, нуклеусы, адшчэпы і інш.), адходы крамянёвай вытворчасці і фрагменты ляпнога посуду.

Знаходкі адносяцца да эпохі мезаліту, неаліту (верхнедняпроўская культура), бронзавага (сярэднедняпроўская культура, рэшткі грунтавога могільніка сосніцкай культуры), жал. вякоў (мілаградская і зарубінецкая культуры) і сярэднявечча.

Паселішча-3 эпохі неаліту і бронзавага веку. За 1,5 км на У ад вёскі, ва ўрочышчы Кашалапы, на невял. узвышшы поплава правага берага р. Сож. Адкрыў у 1926 Палікарповіч, абследавала ў 1974—75 Калечыц. Культурны пласт 0,1 м. Знойдзены крамянёвыя прылады працы (скрабкі, нажападобныя пласціны, нуклеусы, адшчэпы) і фрагменты ляпной керамікі.

Паселішча-4. За 2 км на ПнУ ад вёскі, ва ўрочышчы Старое Аднаполле, на дзюнах. Памеры 700×300 м. Адкрыў у 1926 Палікарповіч, абследавалі ў 1970—80-я г. Калечыц, Бычкоў, У. А. Літвінаў і інш. Культурны пласт 0,1 м. Знойдзены крамянёвыя прылады працы і зброя (разцы, вастрыі, скоблі, наканечнікі стрэл і коп'яў), ляпная кераміка, якія сведчаць, што помнік існаваў з эпохі мезаліту да позняга сярэднявечча.

Паселішча-5 каменнага і бронзавага вякоў. За 300 м на ПнУ ад вёскі, на невял. узвышшы, сярод балота, ва ўрочышчы Паляна. Памеры 150×30 м. Адкрыў у 1926 Палікарповіч, абследавала ў 1975 Калечыц. Культурны пласт 0,2 м. Знойдзены крамянёвыя прылады працы і ляпная кераміка бронзавага веку.

Паселішча-6 каменнага веку. За 300 м на Пд ад вёскі, на схіле вял. астанца 1-й надпоплаўнай тэрасы правага берага р. Сож, ва ўрочышчы Сяльцо. Адкрыў у 1926 Палікарповіч, абследавала ў 1974—75 Калечыц. Культурны пласт 0,2 м. Знойдзены крамянёвыя прылады працы і кераміка эпохі неаліту.

*Літ.:* 479, 772, 863. *А. Г. Калечыц.*

**ПРЫХАБЫ,** курганны могільнік каля в. Прыхабы Расонскага р-на. За 5 км ад вёскі, пры дарозе ў в. Тофелі. 7 круглых курганоў. У 1970 Г. В. Штыхаў даследаваў адзін курган выш. 1,15 м, дыям. 9 м. Пахавальны абрад — трупаспаленне. Пад насыпам выяўлена попельна-вугальная праслойка. У паўн.-зах. частцы кургана круглая яма дыям. 20 см з перапаленымі касцямі. Верагодна крэмацыя праводзілася на месцы ўзвядзення кургана. Рэчаў няма. Датуецца 2-й паловай 1-га тысячагоддзя н. э. *Г. В. Штыхаў.*

**ПСАВАННЕ МАНЕТЫ,** памяншэнне ўладальнікам манетнага права *лігатурнай масы* або *пробы* манеты з захаваннем яе ранейшай *намінальнай вартасці* для атрымання прыбытку. Магчыма адначасовае змяншэнне вагі і пробы. Для маскіроўкі П. м. ўжываецца павелічэнне масы пры паніжэнні пробы або павелічэнне дыяметра манеты пры памяншэнні масы.



Пуансон (злева) і віды выяў (справа) на ім.

П. м., як правіла, наступала ў выніку грашовых рэформ (гл., напр., *Грашовая рэформа Яна Казіміра Вазы, Грашовыя рэформы Станіслава Аўгуста Панятоўскага).* Паралельнае абарачэнне манет рознай якасці, але аднаго наміналу выклікала ў грашовым абарачэнні працэсы, апісаныя *Каперніка — Грэшэма законам.* У выніку П. м. ўзрасталі цэны, неслі страты тыя, хто атрымліваў фіксаваныя ў грашовых адзінках даходы, або трымальнікі вял. сум наяўных грошай, якія належала абмяняць на новыя манеты. П. м. выклікалася неабходнасцю пакрыць вытворчыя страты ад вырабу новых манет (сыравіна, звычайна, служылі старыя манеты лепшай якасці, напр., *тымф*). За П. м. звычайна стаялі фіскальныя інтарэсы скарбу дзяржавы або манарха. Ва ўмовах

сярэдневяковай Зах. Еўропы з адсутнасцю замкнутага абарачэння дзярж. манет і татальнага таможнага кантролю П. м. насіла ланцуговы характар: пры зніжэнні ўтрымання чыстага металу ў манеце суседняй краіны, якая прымалася большасцю ўдзельнікаў гандл. акцый па наміналу, спыніць паток айчынных манет лепшай якасці за мяжу было немагчыма, таму выйсцем было зніжэнне ў адказ чыстай вагі айчынных манет і атрыманне ў выніку гэтай аперацыі даходу. На кожным этапе ўтрыманне высакароднага металу памяншалася на 7—20 %. Часам адзначаюцца і сістэматычныя адхіленні ад *рэмедыума* з абарачэннем лішкаў у даход дзяржавы. У стараж. Рыме, напр., афіцыйна фіксаваная частка манетнай эмісіі складалася з *манет субэратных*. Са з'яўленнем папяровага грашовага абарачэння, крэдытнага па характары (гл. *Банкаўскія*), са знікненнем з ужытку манеты са сваёй уласнай вартасцю, паняцце П. м. згубіла сэнс, і змяненні ў вартаснай здольнасці болей тычыліся грашовай адзінкі з фіксаваным законам утрыманнем грашовага металу, чым рэальнай манеты.

*Літ.:* 1542, 1558, 1564, 1624, 1653, 1709, 1711, 1735, 1751. *І. І. Сінчук.*

**ПСАЛІ**, элемент *цугляў*, які мацаваўся на іх знешніх кольцах ці замест іх дзеля лепшага кіравання канём. З'явіліся ў 3—1-м тысячаг. дзях да н. э., існавалі да 13 — пач. 14 ст. Выраблялі з косці, рогу, дрэва, металу даўж. 11—16 см. На Беларусі П. розных форм сустракаюцца з 10—11 ст.: стрыжнепадобныя (найбольш пашыраны), пласцiністыя, дуга- і S-падобныя (Ваўкавыск, Полацк, Мінск, Навагрудак, Мсціслаў, *Маскавічы*). *І. І. Сінчук.*

**ПУАНСОН** (франц. poinson штэмпель) у манетнай справе, стальны стрыжань для пераводу на *штэмпель* асобных элементаў выявы і *легенды* манеты. Відарыс на П. выкананы верхавой гравіроўкай рэльефна не ў люстраным адбітку. Адрозніваюць П. універсальныя (кропкі, зоркі) і спецыяльныя (выявы, элементы, літары).

У краінах Зах. Еўропы з 10 ст. вядомы П., якімі працавалі з дапамогай ручнога молата, мелі невял. плошчу рабочай часткі, таму выявы наносілі асобнымі элементамі. У 17—18 ст. з пашырэннем у тэхніцы манетнай справы ручнога вінтавога прэса ўжывалі П. вялікай плошчы з усімі выявамі. Выкарыстанне П. вызначаецца па спецыфічных дэфектах: не заўсёды звязаны элементы выяў або накладзены адзін на адзін, перавёрнутыя дагары або са скажонай плоскасцю тулава, літары і інш. П. шырока выкарыстоўваецца ў ювелірнай справе.

*Літ.:* 1546, 1714, 1733. *І. І. Сінчук.*

**ПУЖЫЧЫ**, стаянка эпохі мезаліту каля в. Пужычы Гродзенскага р-на. За 800 м на ПдЗ ад вёскі, на мысе паміж правым берагам Нёмана і левым берагам р. Котра. Пл. 200×180 м. Выявіла ў 1957 Ф. Д. Гурэвіч. Знойдзены лістападобныя наканечнікі стрэл свідэрскага тыпу, высокія канцавыя скрабкі на пласцінках, разцы і інш. На значнай плошчы помнік пашкоджаны.

*Літ.:* 272. *М. М. Чарняўскі.*

**ПУЗЕЛІ**, каменныя магілы каля в. Пузелі Воранаўскага р-на. За 700 м ад вёскі, на ўзвышшы ва ўрочышчы Пяцкунікі. Большасць каменных вымастак мае авальную форму. З зах. боку магіл звычайна знаходзяцца тарчма пастаўленыя камяні. На асобных з іх высечаны крыжы. Даследавалі ў 1884—88 В. А. Шукевіч, З. Глогер і Э. А. Вольтэр. Выяўлены адзіночныя пахаванні па абраду трупапалажэння ў ямах глыб. да 1,5 м. Палажэнне касцякоў выцягнутае, галавой на З, ПнЗ, ПдЗ, у двух выпадках — на Пн, рукі ўздоўж тулава. Пахавальны інвентар: жал. нажы, сякеры, крэсівы, у т. л. з крэменем і кавалкамі серы, наканечнік кап'я, жалезныя і бранзавыя спражкі, кольцы, тачыльныя камяні. Багата прадстаўлены ўпрыгожанні: сярэбраныя і бронзавыя пярсцёнкі, бранзалеты, завушніцы, бронзавыя спіралькі, шкляныя пацеркі. Найбольш характэрнае ўпрыгожанне — галаўны ўбор з бронзавых ці сярэбраных, часам з пазалотай пласцінак, акаймаваных дробнымі шклянымі пацеркамі. У магілах трапляліся літоўскія манеты і адзінкавыя гаршкі. Могільнік датуецца 13—14 ст. і больш познім часам.

*Літ.:* 272. *Я. Г. Звяруга.*

**ПУКАНАЎКА-1**, курганны могільнік крывічоў каля в. Пуканаўка-1 Полацкага р-на. За 400 м на ПнЗ ад вёскі, абапал дарогі на в. Заазер'е, у лесе. 76 курганоў выш. 1—3 м, дыям. 4—10 м, ёсць дыям. 18 м. Моцна зараслі хмызняком, лесам. Каля некаторых прасочваюцца раўкі. Вядомы з канца 19 ст., у 1967 Г. В. Штыхаў даследаваў 6 насыпаў, у 1981 абследаваў Ш. І. Бекцінееў.

Пад усімі насыпамі выяўлена попельна-вугальная праслойка. У адным кургане знойдзены рэшткі чэрапа чалавека, жал. нож, ганчарны гаршчок з хвалістым арнаментам, 4 бронзавыя пярсцёнкі, 2 з іх з дроту сагнуты ў некалькі абаротаў, 2 — пласціністыя з арнаментам у елачку. У другім насыпе пахаванне па абраду трупапалажэння галавой на З. Знойдзены ляпны гаршчок, утулкавы наканечнік кап'я, нож. У інш. курганах пахаванняў і рэчаў не знойдзена.

Датуецца 2-й пал. 10—11 ст.

*Літ.:* 1046.

*Ш. І Бекцінееў, Г. В. Штыхаў.*




Пула 15 ст.: 1. Цвер; 2. Масква; 3. Мажайск; 4. Яраслаўль; 5. Пскоў; 6. Ноўгарад.



Пул Залатой Арды, 1351—52.

**ПУЛ**, медная манета Залатой Арды ў 13—15 ст. (маса 1—2 г). У 14—15 ст. невял. колькасць П. абарачалася на Пд Беларусі.

**ПУЛА**, 1) медная разменная манета Русі 15 — пач. 16 ст., магчыма, па курсу $^1/_{60}$—$^1/_{72}$ *дзенгі*. Чаканілі П. ў Маскве, Цверы, Ноўгарадзе, Пскове, зрэдку ва ўдзельных гарадах (вядомы унікальны экз. П. Смаленска). Імя князя на манеце ў асноўным адсутнічае, але пазначаецца месца чаканкі («пуло московское», «пуло тверское»). 2) Медная разменная манета, чаканеная ў 1351—82 у Львове для Чырвонай Русі (Галіцкай зямлі).

*Літ.:* 1615.

**«ПУС ЕЙПІ»**, адлітыя з бронзы тонкія шпількі з круглымі галоўкамі для мацавання жаночай галаўной хусткі да цвёрдай асновы. Верагодна, іх з'яўленне звязана з пранікненнем моды, занесенай з У мангола-татарамі. У 14—17 ст. пашыраны сярод паволжскіх народнасцей. 5 падобных шпілек даўж. 4—6 см знойдзены пры раскопках у Мінску (маглі належаць татарскаму насельніцтву), у Віцебску.

*Літ.:* 1067. *Г. В. Штыхаў.*

**ПУ́ТЧЫНА,** курганныя могільнікі каля в. Путчына Дзяржынскага р-на.

Курганны могільнік-1. Мясц. назва Татарскія магілы. За 1,1 км на Пн ад усх. ускраіны вёскі, у лесе, ва ўрочышчы Курган. 3 курганы: 2 круглыя дыям. 9,5×10,5 м, 1 авальны, памерамі 9,5×6,8 м. Выш. насыпаў 1,7—2 м. Адкрыў і абследаваў у 1979 Ю. А. Заяц. Раскопкі не праводзіліся.

Курганны могільнік-2. За 2 км на ПнУ ад вёскі, ва ўрочышчы Стэцкі Бярэзнік. 2 круглыя курганы дыям. 8,5 і 13,5 м, выш. 1,4 і 2 м. Адкрыў і абследаваў у 1979 Заяц. Раскопкі не праводзіліся.

Курганны могільнік-3. За 2,5 км на ПнУ ад вёскі, у лесе, каля ўрочышча Маргі. 56 насыпаў выш. 0,5—2,5—3 м, дыям. 3—11 м. Адкрыў і абследаваў у 1979 Заяц, у 1980 раскапаў адзін курган. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў падкурганнай яме галавой на ПнЗ. У нагах другое пахаванне — мужчына, скурчаны папярок ямы.

Знойдзена пярсцёнкападобнае скроневае кольца, ганчарны посуд: адзін гаршчок у яме, адзін — на мацерыку, каля паўн.-ўсх. вугла ямы. Яма абкладзена камянямі сярэдніх памераў, пахавальная пляцоўка абкружана агароджай з камянёў.

Датуецца 11 ст.

Побач з вёскай на раллі знойдзена каменная сякера-клін з «аплеччам». *Ю. А. Заяц.*

**ПУЦКО́** Васіль Рыгоравіч (н. 10.1.1941, г. Глухаў Сумскай вобл., Украіна), украінскі гісторык мастацтва. Скончыў Ленінградскі ін-т жывапісу, скульптуры і архітэктуры Акадэміі мастацтваў (1967). З 1973 працуе ў Калужскім абл. мастацкім музеі. Вывучае мастацтва хрысціянскага сярэднявечча. Даследаваў археал. матэрыялы з Беларусі: каменныя абразкі 12—13 ст. (Полацк, Пінск, Мінск), бронзавы абраз з паселішча Гарадзішча (Мінскі р-н), сярэбраны крыж-машчавік Параскевы Полацкай (вызначыў фанетычныя асаблівасці полацка-віцебскага дыялекту ў надпісах). Адзін з аўтараў «Гісторыі беларускага мастацтва» (т. 1, 1987).

*Тв.:* Мнимый крест Параскевы Полоцкой // Беларускія старажытнасці. Мн., 1972. *Г. В. Штыхаў.*

**ПЧЭ́ЛЬНІК,** курганны могільнік эпохі Кіеўскай Русі каля в. Пчэльнік Барысаўскага р-на. За 3 км на Пн ад вёскі, на левым беразе р. Бярэзіна, абапал дарогі ў в. Кішчына Слабада, у лесе. Захавалася 146 курганоў выш. 0,5—2,5 м, дыям. 5—9,5 м (самы вялікі выш. 3,5 м, дыям. 20 м). Каля буйных курганоў ёсць раўкі. У1968 адзін разбураны курган даследаваў М. М. Прохарчык. Выяўлены касцяк жанчыны, арыентаваны галавой на З, каля яго 4 шкляныя пазалочаныя пацеркі, 4 бронзавыя скроневыя кольцы з заходзячымі канцамі, гаршчок. У 1971 Г. В. Штыхаў даследаваў 2 курганы. Пахавальны абрад — трупапалажэнне. Рэчы не знойдзены.

*Літ.:* 941. *Г. В. Штыхаў.*

**ПШЭВО́РСКАЯ КУЛЬТУ́РА,** археал. культура германскіх, кельцкіх і слав. плямён, якія ў 1—3 ст. разам з плямёнамі *зарубінецкай культуры* і ліпіцкім насельніцтвам пакінулі валына-падольскую групу помнікаў у



Бронзавая шпілька „пус ейпі“ 10 ст. з Полацка.

Сярэднім Падняпроўі і Паўд. Пабужжы, прасунуўшыся амаль да Дняпра, у 2—5 ст. жылі на тэр. Сярэдняй і Паўд. Польшчы, дзе быў асноўны яе арэал. Назва ад могільніка ў в. Гаць каля г. Пшэварска (Жэшуўскае ваяв.), які ў 1905 даследаваў польскі археолаг К. Гадачэк. Насельніцтва займалася земляробствам і жывёлагадоўляй, былі значна развіты чорная і каляровая металургія, апрацоўка дрэва, косці, каменю. Паселішчы былі неўмацаванымі, размяшчаліся групамі паблізу рэк і ручаёў. Асн. тып жытла — прамавугольная паўзямлянка каркасна-слупавой канструкцыі, пл. 12—23 м$^2$, паявіліся наземныя жытлы. У адным з кутоў жылой пабудовы размяшчалася агнішча, выкладзенае каменем ці абмазанае глінай. Былі пашыраны гасп. пабудовы і ямы. Пахавальны абрад — трупаспаленне па-за межамі пахавання, кальцыніраваныя косці старанна ачышчалі ад рэшткаў вогнішча і змяшчалі ў дамавіну. Кераміка ў асноўным ляпная, ёсць ганчарная. Знойдзены прылады працы (нажы, нажніцы, сякеры, крэсіва, брытвы, шылы, грузілы, праслііцы, тыглі), зброя і рыштунак конніка (наканечнікі дзідаў і стрэл, кінжалы, шпоры), фібулы, спражкі, умбоны і інш.

*Літ.:* 540, 1386. *В. С. Вяргей.*

**«ПЫТА́ННІ ГІСТО́РЫІ І АРХЕАЛО́ГІІ»,** зборнік матэрыялаў X рэспубліканскай канферэнцыі маладых вучоных па грамадскіх навуках, якая адбылася ў чэрвені 1966. Выдадзены ў 1966 у Мінску на рус. мове. Складаецца з тэматычных дакладаў пра рэвалюцыйныя падзеі ў 1905—07, 1917, праблемы сацыялістычнага будаўніцтва на Беларусі. Сярод прац па археалогіі характарыстыка некаторых рыс неаліту Бел. Панямоння (М. М. Чарняўскі), крамянёвага інвентару стаянкі Латкі (І. М. Ціханенкаў), пра раскопкі ў Ваўкавыску (Я. Г. Зверуга), курганоў пад Полацкам (Г. В. Штыхаў), гарадзішча *Дворышча* (К. П. Шут), пра гіст. тапаграфію стараж. Пінска (П. Ф. Лысенка), арэалы археал. культур каменнага і бронзавага вякоў на Бел. Падняпроўі (У. Ф. Ісаенка, Ціханенкаў), пра мезаліт Усх. Палесся (Ісаенка). Змешчаны ілюстрацыі, бібліяграфія.

**ПЯРКО́ЎСКІ МАНЕ́ТНЫ СКАРБ.** Знойдзены ў в. Пяркі Кобрынскага р-на ў 1912. Утрымліваў 1512 сярэбраных, білонных і медных манет.

**ВКЛ:** Жыгімонт І Стары — паўгрошы літоўскія (30 экз.) 1525—27, з невыразнай датай; Жыгімонт II Аўгуст — паўгрош літоўскі 1548. **Рэч Паспалітая:** Сігізмунд III Ваза — шэлегі літоўскія (63 экз.) 1620—27, з невыразнай датай, шэлегі польскія (31 экз.) 1620, 1622—27, з памылковай і невыразнай датай, *грошы польскія* (15 экз.) 1623—25, з невыразнай датай, *паўтаракі* польскія (285 экз.) 1619—27, з невыразнай датай, *траякі* польскія (6 экз.) 1621—22, 1624, *тэрнары* польскія (4 экз.), *шылінгі* рыжскія (11 экз.) 1615, 1617, 1620—21; Ян II Казімір Ваза — шэлегі літоўскія (13 экз.) 1652, грошы польскія (2 экз.) 1650, з невыразнай датай. **Прусія:** Георг Вільгельм — шылінгі (32 экз.) 1622—30, 1633, з невыразнай датай. **Шведская Прыбалтыка:** Густаў II Адольф Ваза — шылінгі рыжскія (140 экз.) 1624—26, 1628, 1630—32, з невыразнай датай, *драйпёлькеры* рыжскія (7 экз.) 1623—24, шылінгі эльблёнгскія (34 экз.) 1630—32, з невыразнай датай, драйпёлькеры эльблёнгскія (24 экз.) 1631—32, з невыразнай датай; Крысціна Аўгуста Ваза — шылінгі рыжскія (361 экз.) 1637—53, з невыразнай датай, шылінгі лівонскія (90 экз.) 1645, 1647—51, 1653, з невыразнай датай, драйпёлькер лівонскі 1648, шылінгі эльблёнгскія (29 экз.) 1634—35, з невыразнай датай, драйпёлькеры эльблёнгскія (9 экз.) 1634—36, 1644, з невыразнай датай. **Аўстрыя:** Фердынанд II — шылінгі (5 экз.) і драйпёлькер 1629. **Цешын:** Лізавета Лукрэцыя — абол 1650. **Чэхія:** Фердынанд III — драйпёлькер 1647. **Памеранія:** Ульрых — драйпёлькер 1622. **Трансільванія** (Сяміграддзе): Георг I Ракачы — драйпёлькер 1637. **Брандэнбург:** Георг Вільгельм — драйпёлькеры (24 экз.) 1621—27, з невыразнай датай. **Прусія:** Георг Вільгельм — шылінгі (32 экз.) 1622—30, 1633, з невыразнай датай. **Шатландыя:** Карл I [1625—49] — торнеры (48 экз). **Сучава** (гл. *Сучаўскі манетны двор)* — падробкі пад шылінгі рыжскія (5 экз.) 1634, шылінг эльблёнгскі 1633, драй-

пёлькеры эльблёнгскія (9 экз.) 1633—34.

Скарб ухаваны ў 1653—54. Адрозніваецца ад другіх манетных скарбаў 17 ст. на тэр. Беларусі вял. колькасцю торнераў Шатландыі. Трансільванскі драйпёлькер 1637 зберагаецца ў Эрмітажы, астатнія манеты перададзены для пераплаўкі ў Пецярбургскі манетны двор.

*Літ.:* 1589, 1722. *В. Н. Рабцэвіч.*

**ПЯРСЦЁНАК,** упрыгожанне, якое надзяваюць на пальцы рук; пашыраны ў многіх народаў свету. У старажытнасці П. насілі часцей жанчыны (ад 1 да 4—5, зрэдку да 10 штук адначасова), іншы раз мужчыны і дзеці (асабліва на Пн Беларусі). Рабілі П. з косці, каляровых і каштоўных металаў, шкла, бурштыну. На Беларусі П. з вузкіх бронзавых пласцінак вядомы з часоў жал. веку (мілаградская і зарубінецкая культуры). У часы Кіеўскай Русі ў гарадах былі шырока распаўсюджаны шкляныя пярсцёнкі, якія выраблялі пераважна ў Кіеве. Бытавалі таксама металічныя П. круглადрацяныя, спіралепадобныя, гладкія літыя, пласціністыя арнаментаваныя (кружочкамі з кропкай у цэнтры і лініямі, нанесенымі зубчастым штампам), вітыя, плеценыя, рубчастыя, шырокасярэдзінныя, ажурныя, пячаткі, П. з устаўкамі са шкла, шчытковасярэдзінныя (шчыток у выглядзе круглай, авальнай, прамавугольнай ці рамбічнай формы). Некаторыя П. па форме падобныя да бранзалетаў таго часу. Найб. вядомыя знаходкі: залаты пярсцёнак 10 ст. вагой 24 г (Віцебск), пласціністы сярэбраны П. з разеткай (Драздова, Талачынскі р-н). Фрагмент П. (шасцівугольны шчыток з выявай крына на чарнёным фоне, схематычнымі выявамі галінак па баках і чарнёнымі трохвугольнікамі па вуглах, 2-й пал. 12 — пач. 14 ст.) знойдзены на гарадзішчы *Маскавічы.*

*Літ.:* 728, 772, 1067.

*Л. У. Дучыц, В. М. Ляўко.*

**ПЯСЧА́НАЕ,** стаянка *лінгбі культуры* (канец палеаліту — пач. мезаліту) каля в. Адрыжын Іванаўскага р-на. Размешчана на паўд. беразе воз. Пясчанае, на схіле пясчаных пагоркаў выш. 3—6 м і ніжэй, мескамі апускаецца пад ваду. Найбольшая канцэнтрацыя знаходак ва ўсх. паніжанай частцы помніка, каля трыангуляцыйнага знака і выхадаў мелу і крамянёвых адкладаў. Выяўлена ў 1920-я г., даследавалі ў 1927 польскі археолаг Мечыслаў Руксеруўны, у 1970 У. Ф. Ісаенка.

Сярод 900 апрацаваных крамянёў 50 прылад працы: разцы (бакавыя, вуглавыя, клінападобныя, сярэдзінныя), наканечнікі стрэл (тыпу лінгбі, арэнсбургскія, свідэрскія, гамбургскага тыпу), доўгія і кароткія скрабкі, 60 пласцін і інш. Помнік датуецца 11—6-м тысячагоддзямі да н. э. Крамянёвы матэрыял часткова падобны да знаходак на стаянцы *Опаль.* На тэрасе паўн. берага воз. Пясчанае каля в. Уласаўцы Ісаенка ў 1970 сабраў каля 100 апрацаваных крамянёў.

*Літ.:* 1488. *У. Ф. Ісаенка*



**Пятнаццаць капеек.** Расія: 1. Кацярына II, 1778; 2. Аляксандр II, 1874; 3. Аляксандр III, 1886; 4. Мікалай II, 1917. РСФСР: 5. 1921. СССР: 6—9. 1924, 1933, 1937, 1979.



Залаты **пярсцёнак** 13—14 ст. Гродна.

**ПЯТА́К,** 1) грашовы тэрмін на У Беларусі 16—17 ст. У апошняй чвэрці 16 ст. назва *паўгроша літоўскага,* парытэтнага 5 пеняззям (першае ўпамінанне ў пісьмовых крыніцах Магілёва ў 1579); у апошняй чвэрці 17 ст. назва *траяка* 1570—1620-х г., рэальная вартасць якога была 5 *грошаў* у медных шэлегах — *барацінках* (першае ўпамінанне ў пісьмовых крыніцах Полацка ў 1678). 2) Папулярная назва манеты вартасцю ў *пяць капеек* на тэр. Беларусі, Украіны, Расіі і інш. з 18 ст.

*Літ.:* 1543.

**ПЯТНА́ЦЦАЦЬ КАПЕ́ЕК,** манета Расійскай імперыі, РСФСР і СССР.

**Расія.** Сярэбраная манета 1763 (*залатніковая проба* 72 $^{2}/_{3}$, *лігатурная маса* 3,60 г), 1764—71, 1774—75, 1778—79, 1781—94 (проба 72, маса 3,56 г), 1860—66 (проба 72, маса 3,06 г), 1867—91,

1893, 1896—1909, 1911—17 (проба 48, маса 2,70 г). Адзнакі *наміналу* на манетах 1763—71, 1774—75, 1778—79, 1781—94 — 15 рэльефных кропак і лічба **15**, на манетах 1860—91, 1893, 1896—1909, 1911—17 — **15 копеек.** Выпускалі Пецярбургскі манетны двор у 1763, 1778—79, 1781—94, 1860—91, 1893, 1896—1909, 1911—17 і Красны манетны двор у 1764—71, 1774—75 (адзнакі двароў гл. ў арт. *Манетныя дворы Расійскай дзяржавы*). **РСФСР.** Сярэбраныя манеты з наміналам — **15 копеек** (гл. ў арт. *Манетны двор РСФСР, Манеты РСФСР*). **СССР.** Сярэбраная, нікелевая, белага сплаву манета з наміналам — **15 копеек** (гл. ў арт. *Манетныя дворы СССР, Манеты СССР*). Папулярная назва манеты — пяціалтынны.

*Літ.:* 1615, 1620. *М. І. Смірноў.*

**ПЯТНА́ЦЦАЦЬ РУБЛЁЎ,** залатая манета Расійскай імперыі (*залатнікова проба* 86 $^2/_5$, *лігатурная маса* 12,90 г). Адзнака наміналу — **15 рублей.** Выпусціў Пецярбургскі манет. двор (адзнакі двара гл. ў арт. *Манетныя дворы Расійскай дзяржавы*) у 1897 у выніку *грашовай рэформы Вітэ.*



Пятнаццаць рублёў 1897.

*Літ.:* 1615, 1620.

**ПЯТРО́ВІЧЫ,** гарадзішча ранняга жал. веку каля в. Пятровічы Бабруйскага р-на. За 1,3 км на У ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадок, на правым беразе р. Брожка (правы прыток Бярэзіны), сярод поплава, на ледзь прыкметным узвышшы. Пляцоўка авальная (пл. 4442 м$^2$), умацавана валам шыр. 10—12 м, выш. 1,4 м, даўж. 287 м. З ПнУ

**Пяць капеек.** Расія: 1—2. Пётр I, 1713, 1723; 3. Кацярына I, 1727; 4. Пётр II, 1729; 5. Лізавета Пятроўна, 1756; 6—8. Кацярына II, 1796, 1777, 1787; 9. Аляксандр I, 1811; 10. Мікалай I, 1839.

ёсць дадатковыя ўмацаванні: вал выш. 0,5—0,7 м, шыр. 4—5 м паміж двума равамі (шыр. 4 і 2—3 м, глыб. 0,6—0,9 м). Агульная пл. гарадзішча 11 754 м². Упамінаецца ў апытальным лісце Наркамасветы БССР па Бабруйскім пав. за 1924. Абследавалі ў 1964 Л. Д. Побаль, у 1978 П. Ф. Лысенка, даследаваў у 1987—91 М. І. Лашанкоў (80 м² абарончых збудаванняў і 724 м² пляцоўкі). Гал. вал насыпаны з прынесенага пяску (першапачатковыя шыр. 6 м, выш. 1 м), завяршаўся драўляным плотам або плятнём. Роў за валам меў у разрэзе чашападобную форму, дно на 1 м ніжэй за мацярык пляцоўкі. Дадатковы вал насыпаны з пяску, узятага з унутранага і знешняга равоў, завяршаўся драўлянай сцяной. Знешні роў на 0,9 м ніжэй за мацярык пляцоўкі. У старажытнасці равы злучаліся з балотам і былі запоўнены вадой. У канцы 7 — пач. 5 ст. да н. э. пажар знішчыў драўляныя ўмацаванні на валах. Потым абарончыя збудаванні былі аднаўлены, унутраны роў прысыпаны, а гал. вал павялічаны. Культурны пласт на пляцоўцы ад 0,2—0,3 да 0,4—0,6 м. Выяўлены гасп. ямы і круглыя слупавыя ямкі — сляды наземнага жытла слупавой канструкцыі з незаглыбленай падлогай.

Знойдзены крамянёвыя наканечнік стралы, скрабок, бакавы і вуглавы разцы, пласціны з рэтушшу па краі і без яе, адшчэпы, 3 каменныя сякеры, шмат зерняцёрак. Посуд пераважае пласкадонны з прафіляваным тулавам і адагнутым венчыкам, а таксама венчыкі рабрыстых гаршкоў *штрыхаванай керамікі* культуры і тоўстыя сценкі слоікападобнага посуду. У ліку знаходак бронзавыя скроневая кольца, трапецападобная і акулярападобная падвескі, жал. сякера-кельт, нож з гарбатай спінкай, 3 сярпы і нож для жніва, 3 кольцы, шылы, шпількі посахападобныя і з кальцавым навершам, 4 фібулы, фрагменты гліняных і мініяцюрных пасудзін, частка тыгля, 30 прасліц. Маркуючы па знаходках, мілаградскае насельніцт-



**Пяць капеек.** Расія. 11—12. Мікалай I, 1850, 1839; 13—15. Аляксандр II, 1867, 1867, 1858; 16—17. Аляксандр III, 1881, 1890; 18—19. Мікалай II, 1897, 1911. СССР: 20—23. 1924, 1926, 1957, 1979.

ва адчувала ўплыў носьбітаў культуры штрыхаванай керамікі. Гарадзішча датуецца 6—1 ст. да н. э.

*Літ.:* 904. *М. І. Лашанкоў.*

**ПЯТРОЎЦЫ**, стаянка *нёманскай мезалітычнай культуры* каля в. Пятроўцы Полацкага р-на. За 1,5 км на З ад вёскі, на 1-й надпоплаўнай тэрасе левага берага р. Зах. Дзвіна, ва ўрочышчы Сямёнаў Хутар. Адкрыла і даследавала ў 1957 Н. М. Гурына, у 1967 даследаваў І. М. Ціханенкаў. Ускрыта 121 м². Знойдзены крамянёвыя ўкладышы, скрабкі канцавыя з пласцін, сякеры, праколкі, вастрыі, скоблі, рэтушаваныя пласціны і адшчэпы, фрагменты наканечнікаў стрэл, трапецыя, нуклеусы. Датуецца познім мезалітам.

*Літ.:* 289, 1187. *У. П. Ксяндзоў.*

**ПЯТРОЎШЧЫНА**, курганныя могільнікі каля былой в. Пятроўшчына (цяпер у межах Мінска).

Курганны могільнік-1 дрыгавічоў. За 1 км на Пн ад былой вёскі, за 100 м ад воз. Чыстая Лужа. 11 насыпаў выш. да 4,25 м, дыям. 3,5—11,5 м. На пач. 20 ст. 5 курганоў знішчана. У 1925 І. А. Сербаў даследаваў 3 курганы. Пахавальныя абрады — трупапалажэнне галавой на З і трупаспаленне на падсыпцы. Пахаванні адзіночныя, адно трайное. Крэмацыя адбывалася на месцы пахавання. У магілах з трупапалажэннем нябожчыкі ў трунах або пакрыты драўлянай калодай. У нагах і ў галавах або толькі ў нагах — сляды невял. рытуальных вогнішчаў. У адным кургане пахаванне на попельнай пляме. У насыпе, блізка ад вяршыні, выяўлены сляды памінальнай трызны — сляды вогнішча, у ім косці свойскіх жывёл, рыб і птушак, фрагменты ганчарнага посуду.

Пахавальны інвентар: скроневыя пярсцёнкападобныя S-канцовыя кольцы, несапраўдна вітыя і дротавыя пярсцёнкі, пацеркі сердалікавыя (прызматычныя і 14-гранныя), золаташкляныя, шыферныя, гліняныя, у вочкі, а таксама металічныя зярнёныя і філігранныя, ганчарныя гаршкі.

Датуецца канцом 10—1 пал. 11 ст.

Курганны могільнік-2. За 100 м на Пн ад курганнага могільніка-1. 14 насыпаў выш. да 4 м, дыям. 4—15 м. Даследаваў у 1925 Сербаў (6 курганоў). Пахавальны абрад — трупапалажэнне галавой на З на невысокай падсыпцы і ў падкурганных ямах глыб. да 0,5 м. У некаторых магілах выяўлены рэшткі дамавін. Каля пахаванняў у насыпах сляды невял. рытуальных вогнішчаў. Большасць пахаванняў без інвентару. Знойдзены 2 бронзавыя гузікі і ганчарныя гаршкі. Блізка да вяршынь насыпаў выяўлены рэшткі вогнішчаў ад памінальных трызнаў. У іх фрагменты ганчарнага посуду. Датуецца канцом 10—11 ст.

*Літ.:* 1082. *Ю. А. Заяц.*

**ПЯЦІАЛТЫННЫ**, пашыраная ў Расіі і на Беларусі з 18 ст. назва манеты наміналам у *пятнаццаць капеек.*

**ПЯЦЬ КАПЕЕК**, манета Расіі і СССР.

**Расія.** Медныя манеты 1723—27, 1729—30 (маса 20,48 г), 1726 (*плата* маса 81,90 г), 1758—95, 1802—10 (маса 51,19 г), 1796 (маса 51,19 г і 25,59 г), 1763—64, 1766—80 (П. к. сібірскія, маса 32,76 г), 1830—39 (маса 22,75 г), 1849—66 (маса 25,59 г), 1867 (маса 25,59 г і 16,38 г), 1868—81, 1911—12, 1916—17 (маса 16,38 г). Адзнакі наміналу — 5 рэльефных кропак і **пять копеек** (1723—30), **пять копеек** (1726, 1758—96), 5 рэльефных кропак і **5 пять копеек** (1796), **5 копеек** (1802—1917). Выпускалі П. к. *манетныя двары Расійскай дзяржавы:* Кадашаўскі (1724—27, 1729—30), Набярэжны медны двор (1726—27), Красны (1727, 1758—61, 1763—68, 1788—89, 1795), Пецярбургскі (1763—67, 1788, 1830, 1849, 1867—68, 1876—81, 1911—12, 1916—17), Ека-



**Пяць рублёў.** Расія: 1. Лізавета Пятроўна, 1755; 2. Кацярына II, 1792; 3. Павел I, 1798; 4. Аляксандр I, 1804; 5. Мікалай I, 1853; 6—7. Аляксандр II, 1876, 1882; 8—9. Мікалай II, 1895 (паўімперыял), 1907.

...зарынбургскі (1726 — плата, 1763—55, 1767—96, 1763—64, 1766—80—намінал **пять копъек сибирские**), 1802—10, 1830—39, 1849—76), Сестрарэцкі (1763—67), Калыванскі (1781—96), Таўрычаскі (1787—88), Анінскі (1789—96), Сузунскі (1802—10, 1831—39), *Варшаўскі манетны двор* (1850—53, 1856), *Аёвецкі манетны двор* (1764, 1778, 1787); без адзнакі манетнага двара П. к. 1723—24, 1758—63, 1765. Сярэбраныя манеты 1713—14 (*залатніковая проба* ≈38, *лігатурная маса* ≈2,83 г), 1755—61 (проба 77, маса 1,21 г) 1787 (намінал — **пять копеек таврические**, проба 72, маса 1,02 г), 1797 (проба 83 $^1/_3$, маса 1,46 г), 1798, 1800—1801 (проба 83 $^1/_3$, маса 1,04 г), 1810—12 (проба 72, маса 1,20 г), 1813—59 (проба 83 $^1/_3$, маса 1,04 г), 1860 (проба 83 $^1/_3$, маса 1,04 г і проба 72, маса 1,02 г), 1861—66 (проба 72, маса 1,02 г), 1867—93, 1897—1906, 1908—15 (проба 48, маса 0,90 г). Адзнака наміналу — 5 вертыкальных рэльефных кропак і **пать копеекъ** (1713), 5 рэльефных кропак і **пать копеекъ** (1714), **5 коп**[еек] (1755—61), **5** [копеек] (1787), **5 копеекъ** (1797—98, 1800—01, 1810—93, 1897—1906, 1908—15). Выпускаў Пецярбургскі манетны двор (1797—98, 1800—01, 1810—93, 1897—1906, 1908—15); без адзнакі манетнага двара П. к. 1713—14. **СССР**. Медная, бронзавая, белага сплаву манета (гл. ў арт. *Манетныя двары СССР, Манеты СССР)*. Папулярная назва П. к.— пятак.

*Літ.:* 1615, 1620. *М. І. Смірноў.*

**ПЯЦЬ РУБЛЁЎ,** манета Расійскай імперыі і СССР.

**Расія.** Залатая манета з наміналам — **пять рублей** (1755—1832) і пазней — **5 рублей**. Выпускаў Пецярбургскі манетны двор у 1755—63 (*залатніковая проба* 88, *лігатурная маса* 8,26 г), 1764—96, 1817—85 (проба 88, маса 6,54 г), 1798—1805 (проба 94$^2/_3$, маса 6,08 г), 1886—96 (проба 86$^2/_5$, маса 6,45 г), 1897—1911 (проба 86$^2/_5$, маса 4,30 г). **СССР.** Памятная манета (гл. ў арт. *Манеты мемарыяльныя СССР)*. П. р. медна-нікелевага сплаву (маса 29 г у 1987 і 19,80 г з 1988) выпускаў з 1987 Ленінградскі манетны двор у 3 відах выканання: звычайным (для грашовага абарачэння і калекцыяніравання) і палепшаным («брыліянт антыркуляйтэд» і для калекцыяніравання «пруфлайк»). Сярэбраныя П. р. выпускаюць Санкт-Пецярбургскі і Маскоўскі манетныя двары з 1977 палепшанай якасці выканання.

*Літ.:*1563, 1615, 1620. *М. І. Смірноў.*

**ПЯЦЬДЗЕСЯТ КАПЕЕК,** манета Расійскай імперыі, РСФСР і СССР.

**Расія.** Сярэбраная манета (*залатніковая проба* 86 $^2/_5$, *лігатурная маса* 10 г), намінал — **50 копеек**. Выпускаў Пецярбургскі манетны двор (1886—1904, 1906—14). **РСФСР**. Сярэбраная манета, намінал — **50 копеек** (гл. ў арт. *Манетны двор РСФСР, Манеты РСФСР)*. **СССР.** Манета з белага сплаву (гл. ў арт. *Манетныя двары СССР, Манеты СССР)*. Пашыраная назва П. к.— *палціна*, палціннік.

*Літ.:* 1615, 1620.



**Пяцьдзесят капеек.** Р а с і я: 1. Аляксандр III, 1886; 2. Мікалай II, 1896. Р С Ф С Р; 3. 1921. С С С Р: 4. 1979.

**ПЯЧАТКА,** прадмет з выразанымі знакамі для адбітка іх на гліне, воску, паперы і інш., а таксама адбітак гэтых знакаў на дакументах для надання ім сапраўднасці і юрыдычнай сілы. Адбіткі П. падзяляюцца на металічныя (10—15 ст.), васковыя (14—17 ст.), сургучныя (з канца 17 ст.), куродымныя (18—19 ст.). На тэр. былой Кіеўскай Русі пры археал. раскопках або выпадкова знойдзены металічныя П., сярод якіх пераважаюць свінцовыя віслыя П.-*булы* дыям. 1,5—3 см. Шмат віслых П. выяўлена ў Ноўгарадзе: свінцовыя полацкія П. кн. Ізяслава Уладзіміравіча (канец 10 ст.), Ефрасінні







Віслыя пячаткі з Віцебска.

Полацкай і яе маці Сафіі, епіскапаў Дыянісія і Міны (12 ст.) і інш. У Ваўкавыску, Тураве і на Берасцейскім гарадзішчы знойдзена П. тураўскага кн. Ізяслава Яраславіча (у хрышчэнні Дзмітрыя, 11 ст.). Яму належала, магчыма, П. з выявай св. Дзмітрыя з Пінска. У Полацку выяўлена П. з выявай кіеўскага кн. Усевалада (Андрэя) Яраславіча (11 ст.) і была з выявай Маці Боскай Агіясарытысы ці Халкапратыйскай, у Віцебску — П. з выявай Васілія Кесарыйскага і архангела Міхаіла,



Свінцовая віслая **пячатка** Усевалада Яраславіча з Полацка. 11 ст.

якая належала кн. Рурыку Расціславічу [1157—1210], і П. з выявай Феадора Цірона з надпісам «ги помзі рабу свое...», што належала сыну Уладзіміра Манамаха, кн. Мсціславу Уладзіміравічу [1113—17]. Некалькі П. з Гродна і Віцебска маюць на адным баку выяву св. Барыса ці Глеба ў княжацкай шапцы з крыжам каля грудзей, на адваротным — выяву расквітнеўшага крыжа. Такая П. з Мінска, відаць, належала мінскаму кн. Глебу Усяславічу (памёр у 1119) або яго брату, полацкаму кн. Барысу. На П. з Гомеля змешчана выява св. Фёдара з дзідай у правай руцэ, на адвароце — грэчаскі добразычлівы надпіс з імем Фёдара; на П. з Гродна — надпіс «Дьнеслово», з Ваўкавыска — «Симеон». Знойдзеная П. ў в. Залатуха Калінкавіцкага р-на мае выяву св. Георгія, на адваротным баку — знака Рурыкавічаў — трызубца. На *Полацкім Вялікім пасадзе* выяўлена двухбаковая П. з каменю-пясчаніку канца 16 — 1-й пал. 17 ст. На адным яе баку адлюстравана «Пагоня», на адваротным — алень, які бяжыць. Разнавіднасцю віслай металічнай П. з'яўляецца *пломба*. Вывучае П. *сфрагістыка.*

*Літ.:* 685, 848, 1258, 1275, 1347, 1393.

*Г. В. Штыхаў, І. А. Цішкін.*

# Р

**РАБЦЭ́ВІЧ** Валянцін Навумавіч (н. 26.11.1934, б. в. Краснае, Кіраўскі р-н Магілёўскай вобл.), беларускі нумізмат, археолаг. Канд. гіст. навук (1965). Скончыў БДУ (1957). У 1957—59 навук. супрацоўнік арганізацыйнай групы Дзярж. музея Беларускай ССР. З 1963 выкладчык, з 1970 дацэнт кафедры гісторыі старараж. свету і сярэдніх вякоў, з 1973 — кафедры археалогіі, этнаграфіі і дапаможных дысцыплін БДУ. Вывучае гісторыю грашовага абарачэння на Беларусі, Украіне, у Літве і Польшчы, тапаграфію манетных скарбаў на Беларусі. Удзельнічаў у абследаванні і раскопках археал. помнікаў *Ветачка, Гадзілавічы, Каласы, Мадора, Навасёлкі* (у межах г. п. Мядзел), Нагаўкі Мядзельскага р-на, *Наўры, Цагельня, Юдзічы.* На аснове ўласнай калекцыі манет стварыў нумізматычны кабінет БДУ. Прадстаўляў Беларусь у Нумізматычнай камісіі Нацыянальнага к-та гісторыкаў СССР. Адзін з аўтараў «Нарысаў па археалогіі Беларусі» (ч. 2, 1972), навучальнага дапаможніка для ВНУ «Гістарычнае краязнаўства Беларусі» (1980).

*Тв.:* Шотландские монеты первой половины XVII в. в кладах Белоруссии и соседних районов // Нумизматика и эпиграфика. М., 1963. Т. 4; Обращение пражского гроша на западнорусских землях // Государственный Эрмитаж, 1764—1964. Л., 1964; Два монетновещевых клада IX в. из Витебской области // Нумизматика и эпиграфика. М., 1965. Т. 5; Основные итоги нумизматических исследований в БССР // Белорусские древности. Мн., 1967; Новые монеты Дегтянского клада // Беларускія старажытнасці. Мн., 1972; О чём рассказывают монеты. 2 изд., Мн., 1977; «Бумаги М. Г. Деммени» как источник по истории монетного производства Петровской эпохи // Краткие тезисы докладов и сообщений научной конференции «Новое в советской нумизматике и нумизматическом музееведении». Л., 1987; Skarby monet z XVI i XVII wieku na terenie obwodu Brzeskiego i Grodzieńskiego Białoruskiej SRR // Prace i materiały Muzeum archeologicznego i etnograficznego w Łodzi. Ser. numizmatyczna i konserwatorska. 1986. № 6; Putywlskie i sewskie czechy //Там жа. 1988. № 8.



В. Н. **Рабцэвіч.**

**РАВЯ́ЧКА,** група археал. помнікаў каля в. Равячка Мядзельскага р-на.

Гарадзішча *штрыхаванай керамікі культуры.* За 500 м на ПдУ ад вёскі, на ўзвышшы сярод поплава р. Сэрвач. Пляцоўка памерам 55 × 38 м, умацавана сістэмай валоў і равоў. Першы вал выш. 0,7 м, шыр. 4 м знаходзіцца з паўн.-ўсх. боку пляцоўкі, за ім роў глыб. 2 м і шыр. каля 6 м, другі і трэці валы з 2 равамі — з паўд.-зах. боку пляцоўкі. Выш. валоў 1 м, шыр. 5—7 м, глыб. равоў 0,5—0,6 м, шыр. 6—7 м. Адкрыў у 1967 і абследаваў у 1974 А. Р. Мітрафанаў. Культурны пласт у цэнтры пляцоўкі 0,3—0,4 м, каля краёў 0,8—1 м. Знойдзены фрагменты рабрыстых і слоікавых штрыхаваных пасудзін, косці жывёл і шлакі. Датуецца 1—4 ст. н. э.

Селішча-1 *банцараўскай культуры.* За 400 м на Пд ад зах. ускраіны вёскі. Займае частку поля і поплава р. Сэрвач. Пл. 0,4—0,5 га. Адкрыў і абследаваў у 1973 Мітрафанаў. Культурны пласт 0,1—0,2 м. Знойдзены абломкі ляпнога гладкасценнага посуду. Датуецца 6—7 ст. н. э.

Селішча-2 банцараўскай культуры. За 1 км на ПдЗ ад вёскі, на пакатым узвышшы правага берага р. Сэрвач. Памер 165 × 30—35 м, выш. над узроўнем ракі 4—5 м. Адкрыў у 1967, даследаваў у 1973—75 Мітрафанаў, ускрыта 1292 $м^2$. Культурны пласт 0,4—0,5 м. Выяўлены рэшткі 4 прамавугольных у плане жытлаў зрубнай канструкцыі з двухсхільнымі дахамі. Наземныя жытлы (2) пл. 11,5 і 16,8 $м^2$ ледзь урэзаны ў пакаты схіл узвышша з печамі-каменкамі ўнутры ў выглядзе развалу абпаленых камянёў. Адна паўзямлянка пл. 15,2 $м^2$ заглыблена ў зямлю на 0,5 м, мела агнішча ў выглядзе вымасткі з дробных камянёў на пясчанай падсыпцы. Другая паўзямлянка заглыблена ў зямлю на 0,6 м (раскапана часткова, пл. даследаванай часткі 6,5 $м^2$), мела ўнутры печ-каменку.

Знойдзены ляпная гладкасценная і штрыхаваная кераміка, слабапрафіляваныя і слоікавыя пасудзіны, жал. нажы з выгнутай і прамой спінкай, навершы дзяржанняў якіх мелі S-падобныя і спіралепадобныя завіткі, бронзавыя трубачкі, жал. шылы, гліняныя біканічныя праслiцы з вял. адтулінамі.

*Літ.:* 785. *А. Р. Мітрафанаў.*

**РАГАЧОЎ**, горад, цэнтр Рагачоўскага р-на, прыстань на р. Дняпро, за 2 км ад зліцця з ім р. Друць. За 121 км на ПнЗ ад Гомеля, чыг. станцыя на лініі Магілёў — Жлобін, на аўтадарозе Бабруйск — Крычаў.

Гарадзішча стараж. Р. займае край мыса выш. 11—12 м каля сутокаў Друці з Дняпром. Пляцоўка блізкая да трохвугольнай, памер 125×90 м, ад карэннага берага аддзелена дугападобным ровам шыр. больш за 40 м. З трох бакоў гарадзішча было абаронена высокімі стромкімі схіламі, а з боку поля — ровам. Штучныя ўмацаванні не захаваліся, уезд размяшчаўся з паўд. боку. Вядома пад назвамі Замкавая гара, Замак каралевы Боны. Выявіў у 1855 М. В. Без-Карніловіч, абследавалі ў 1929 А. Дз. Каваленя, у 1951 Ю. У. Кухарэнка, даследаваў у 1966—67 П. Ф. Лысенка. У 1973, 1975—76 раскопкі праводзіла археал. экспедыцыя БДУ пад кіраўніцтвам Э. М. Загарульскага. Першыя пасяленцы на гэтай тэрыторыі паявіліся ў 2-м тысячагоддзі да н. э., пра што сведчаць знаходкі каменнай матыкі і абломкаў ляпной керамікі з грабеньчатым арнаментам. У 1-м тысячагоддзі да н. э. тут узнікла ўмацаванае гарадзішча жал. веку. Пры раскопках знойдзены сярпы, нажы, лязо сякеры, наканечнікі стрэл, рыбалоўныя кручкі, абгарэлае збожжа, фрагменты штрыхаванай керамікі, знаходкі глінянага тыгля і льячкі сведчаць пра існаванне бронзаліцейнай справы. Да сярэдзіны 1-га тысячагоддзя н. э. гарадзішча заняпала і праз некалькі стагоддзяў (канец 1-га — пач. 2-га тысячагоддзя) на яго месцы ўзнікла ўсх.-слав. паселішча. Культурны пласт да 1,3 м, не захаваў рэчаў арганічнага паходжання, таму забудову прасачыць не ўдалося.

Знойдзены прылады працы (нажы, сярпы, разцы, нажніцы, сякеры, зубіла і інш.), прадметы побыту (фрагменты замкоў і ключы, шылы, крэсівы, падкоўкі для абутку, дужкі ад вёдраў, пісала і інш.), зброя і рыштунак конніка (наканечнікі стрэл, фрагменты шпор, дэталі цугляў), ювелірныя вырабы (паясныя спражкі, шпількі, пярсцёнкі), касцяныя вырабы (арнаментаваныя трубкі, падвеска-амулет з адтулінай, арнаментаваныя накладкі, абломак шахматнай фігуры). Сярод інш. знаходак — сярпы, рыбалоўныя кручкі, фрагменты ганчарнага посуду. Стараж. насельніцтва Р. займалася земляробствам, жывёлагадоўляй, рыбалоўствам, паляваннем, былі развіты апрацоўка жалеза, каляровых металаў, косці, дрэва і інш., існавалі гандл. сувязі з Кіевам і Валынню (прывозіліся шкляныя пацеркі і посуд, шыферныя праслiцы і інш.). На думку Лысенкі, паселішча на Замкавай гары ўзнікла ў 11 ст. Найб. верагоднай уяўляецца думка пра ператварэнне Р. ў горад з феад. замка.

Р. упершыню ўпамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1142 пры апісанні раздачы кіеўскім кн. Усеваладам Ольгавічам сваім братам гарадоў Тураўскай і Уладзімірскай зямель. У сувязі з тым, што ён названы сярод іншых тураўскіх гарадоў, можна меркаваць, што Р. належаў Тураўскай зямлі. Другі раз упамінаецца ў летапісе пад 1188 пры апісанні паспяховай аблогі Друцка Святаславам. З канца 13 ст. ў складзе ВКЛ, з 1509 належаў вял. князю, кіраваўся старостам. У канцы 16 — пач. 17 ст. ў ваколіцах Р. дзейнічалі казацка-сялянскія атрады Налівайкі і Дубіны. Як умацаваны замак Р. упамінаецца з 1567, меў стратэгічнае значэнне і ў 17 ст. уваходзіў у сістэму пагранічнай абароны па Дняпры (спалены ў 1654, канчаткова знішчаны да 1780). Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) Р. у Расійскай імперыі.

*Літ.:* 107, 318, 703, 848.

*А. М. Вагачава.*



Рагвалодаў камень у капліцы. 1890-я г.

**РАГАЧОЎСКІ МАНЕТНЫ СКАРБ.** Знойдзены ў г. Рагачоў у 1971. Утрымліваў каля 1000 манет, у ліку якіх вядомы 462 медныя са слядамі серабрэння: падробкі (гл. ў арт. *Манета фальшывая*) пад $^1/_{12}$ талера Прусіі 1766 (127 экз.), 10-грашовікі Польшчы 1831 (гл. ў арт. *Манеты Каралеўства Польскага*; 72 экз.), 10-грашовікі абложанай Варшавы 1831 (гл. ў арт. *Манета асадная, Манеты мяцежныя;* 263 экз.). Аналагаў няма. Найбольш магчымы час ухавання — 1832. Захоўваецца ў нумізматычным кабінеце БДУ.

*Літ.:* 1585.

**РАГВАЛОДАЎ КАМЕНЬ**, манументальны помнік *эпіграфікі* 12 ст., каля в. Дзятлава Аршанскага р-на, за 18 км ад Оршы. Мясц. назвы Барысаглебскі, Аршанскі, Уладзімірскі. Адкрыты ў 1792, упершыню ўпамінаецца ў кнізе Ц. Мальгіна «Зярцала расійскіх гасудароў» (Спб., 1794). Валун выш. да 3 м з высечаным 6-канцовым крыжам (выш. 160 см) і надпісам на стараж.-рус. мове: «В лето 6679 месяца мая в 7 день доснен крест сей. Господи помози рабу своему Василию в крещении именем Рогволоду сыну Борисову». Выш. літар 15 см. Крыж і надпіс высечаны ў 1171 па загаду друцкага кн. Рагвалода Барысавіча пасля галоднай зімы 1170—71 у спадзяванні на ўраджай. Пазней над Р. к. была пабудавана капліца. Падобны на *Барысавы камяні.* Не збярогся.

*Літ.:* 66, 191, 335, 523, 1012, 1233.

**РАДАМЛЬСКІ ЗАМАК.** Існаваў у 12—17 ст. паміж вёскамі Радамля і Аляксандраўка Чавускага р-на. Замчышча сярэдневяковай Радамлі займала гарадзішча 12—13 ст., размешчанае на мысе высокага левага берага р. Радуча, прытока Проні. Пляцоўка гарадзішча авальнай формы (53×40 м) з Пн была абаронена грэбенепадобным валам выш. каля 4,7 м і шыр. да 8 м у аснове. Ранняе гарадзішча па ўсім перыметры было абнесена валам, які цяпер зніверліраваны за выключэннем паўн. ўчастка. Паўднёвы, больш нізкі край замкавай пляцоўкі, узвышаецца над далінай Радучы на 16 м, паўн.-ўсходні — больш як на 18 м. Ад берагавога плато замчышча было аддзелена ровам глыб. 10 м і шыр. 40 м.

Радамля — тыповае для Беларусі невял. сярэдневяковае парубежнае паселішча з умацаваным замкам. За станам абарончых яго збудаванняў даглядалі служылыя людзі. Інвентары Р. з. не захаваліся. Даследаванні даюць падставу меркаваць, што ў замку было не менш за 4 вежы: уязная вежа-брама, баявая вежа на грэбенепадобным вале з Пн, 2 вежы размяшчаліся па перыметры сцен. Праз невял. «брамку-фортку» ў тоўшчы абарончых сцен ажыццяўляўся выхад з замка да ракі. Археал. даследаванні ў Радамлі сведчаць, што ў 14—17 ст. драўляныя абарончыя сцены ўзводзіліся тут у выглядзе вастракола і традыцыйных гародняў, абмазаных глінай. Яны стаялі на вале, які неаднаразова падсыпаўся. У паўднёвай, найб. абароненай частцы замка знаходзіўся стараж. калодзеж, які адыгрываў важную ролю ў час аблогі. Ад яго збераглася варонкападобная западзіна дыям. каля 8 м і глыб. больш за 4,5 м. Верагодна, з 12 ст. Радамля ўваходзіла ў Мсціслаўскае княства. Пасля ўключэння гэтых зямель у ВКЛ яна знаходзілася ў складзе вялікакняжацкага дамена пад кіраўніцтвам спец. намесніка. 12.9.1527 замак «з дворы и бояры, и их именьи, и з селы» былі падараваны вял. князем ВКЛ і каралём Польшчы Жыгімонтам І Старым кн. Міхаілу Іванавічу Жаслаўскаму. У 1528 Жаслаўскі па патрабаванні караля перадаў Радамлю сваяму сыну Фёдару, які перайшоў на службу да Маскоўскага князя. З 1528 Радамля зноў стала вялікакняжацкім

уладаннем. Радамля падзяляла з Мсціславам лёс парубежнага горада і рэдка пазбягала аблогі. У 1535 Р. з. моцна пацярпеў у час аблогі. Кароль у пісьме панам-радзе ВКЛ звяртаў увагу на неабходнасць тэрміновага «отправеня замку... Радомля по добыванию Московского о опатрене спижею и учинене подможеня боярам». Палова ўсяго сабранага ў воласці хлеба ішла ў жытніцы Р. з. для ўтварэння запасаў на выпадак аблогі, а прыбыткі з корчмаў і мыту — на ўтрыманне тутэйшых пушкароў. У арсенале Р. з. захоўвалася агнястрэльная зброя, якую цэнтралізавана пастаўлялі з «пушкарского Виленского двора». У 1552—65 для пастаяннага гарнізона сюды прывозіліся гакаўніцы, ручніцы, розная амуніцыя. Мясц. шляхта прасіла ў 1569 на Віленскім сейме караля, каб ён «Радомлянский замок оправить або его знову будовать расказать рачил». У 1539—1770 Радамля — цэнтр неградавога староства, куды акрамя замка і «места» Радамля ўваходзілі вёскі Расна, Заполле, Жаліўе, Усполле, Параднін. У час рус.-польскай вайны 1654—67 у Радамлі фарміраваўся бел. казацкі полк К. Паклонскага, пазней размяшчаліся часці казакоў Нежынскага палка. Важнай ролі ў вайне замак не адыгрываў і пасля 17 ст. ў гіст. крыніцах не ўпамінаецца.

*М. А. Ткачоў.*

**РА́ДАСЦЬ,** курганны могільнік 8—10 ст. каля в. Радасць Камянецкага р-на. За 500 м на ПнУ ад вёскі, на левым беразе р. Лясная, ва ўрочышчы Альшына. Мясц. назва Шведскія магілы. Захаваліся 3 задзернаваныя, пашкоджаныя ямамі насыпы выш. 0,5—1,5 м, дыям. 7—14 м. Вядомы з 1895, даследавалі Ю. У. Кухарэнка ў 1962 (1 курган), І. П. Русанава ў 1969 (2 курганы), абследавала ў 1980, 1985 Т. М. Каробушкіна. Прасочваюцца кальцавыя раўкі глыб. 0,4 м, запоўненыя пяском з вуголлем. Пахавальны абрад — трупапаленне. У насыпах і на гарызонце выяўлены вогнішчы дыям. да 3 м, таўшч. да 0,2 м з перапаленымі касцямі, вугальныя праслойкі, попельныя плямы. У адным з курганоў пад вугальнай праслойкай знойдзены спалены драўляны прамавугольнік (3 × × 2,6 м), арыентаваны па баках свету, у паўд.-зах. вугле якога былі перапаленыя косці нябожчыка і жал. спражка. Знойдзены таксама фрагменты ляпных гаршкоў з арнаментам у выглядзе косых насечак і ганчарнага посуду з хвалістым і лінейным арнаментам. Адносіцца да «парных» курганоў валынян.

*Літ.*: 997, 999. *Т. М. Каробушкіна.*

**РАДАШКО́ВІЦКІ ЗА́МАК.** Існаваў у 16 ст. ў г. п. Радашковічы Маладзечанскага р-на. Упершыню згадваецца ў адным з інвентароў Радашковіч за 1549, калі вял. князь ВКЛ і кароль Польшчы Жыгімонт II Аўгуст правёў «списанье и выведанье замков, дворов и волостей», у т. л. «замку Радашковского». Размяшчаўся паміж 2 ставамі, зробленымі на рэках Гуйка і Вязынка, на «капцы сыпаным», і быў збудаваны накшталт карабля (формай нагадваў няправільны чатырохвугольнік).

Вада абкружала замак з усіх бакоў і прайсці да замкавай вежы-брамы можна было толькі па пад'ёмным мосце, перакінутым цераз роў перад брамай. Яна мела памеры каля 8,52 × 21,30 м, была рублена з вял. бруса выш. у 4 паверхі. Першы паверх яе праразалі вароты. На 2-і паверх вёў «усход», праз які траплялі ў прыстасаваныя для абароны «сени». Тут жа, па аналогіі з *Мірскім замкам* і інш., мог быць калаўрот для пад'ёму ланцугамі «ўзвода» — моста. На гэтым паверсе знаходзілася «вялікая святліца» з паліванай печчу і 2 сталамі. Трэці паверх быў таксама прыстасаваны для абароны. Тут стаяла невял. гармата — «дельцо железное семи пядей, куля якобы гусиное яйцо, в ложы чорной на козлох деревяных». З дакумента вынікае, што «с тое ж сени троха вышэй вежа кругло будована з окнами, ку обороне». Аднак на думку некаторых даследчыкаў, вежа з вышыні 2-га паверха пераходзіла ў васьмярык. Гэты паверх быў адначасова і «свирном», дзе захоўваліся, відаць, правіянт, ваенны рыштунак і інш. патрэбныя для абароны рэчы. Дах вежы быў абабіты «белым железом». Злева ад вежы-брамы, на адлегласці 20 сажняў, стаяла другая, 3-павярховая вежа. Першы паверх яе займаў «свирон», 2-і — пустая капліца, а прыстасаваны для абароны 3-і — «дело железное полдевяти пяди, куля большая, нижли кулак, в ложы чорном железом окованом, на кожле деревяном». Вежа была квадратная (10,65 × 10,65 м) і злучалася з вежай-брамай сцяной з 12 гародняў. На адлегласці 40 сажняў ад 2-й вежы ў куце замка стаяла рубленая з бярвён 3-я вежа. Яна была звязана 19 гароднямі з 2-й вежай і 11 гароднямі з 4-й кругла Гэта апошняя вежа замка злучала 28-сажнёвай сцяной (13 гародн з уваходнай вежай-брамай. У Р. з. бы яшчэ адна вежа, не звязаная з замка мі сценамі. Яна месцілася асобна падворку і мела 4 паверхі, тры з я выкарыстоўваліся для гаспадарч а 4-ы — для абаронных патрэб. Паво




Этнавызначальныя рэчы **радзімічаў**: бранзалетападобнае скроневае кольца (1; сямінрамянёвае скроневае кольца (2); гронкавая падвеска (3); сяміпрамянё скроневае кольца (4); эліпсоідная падвеска (5); буйназярністая пацерка (6; язычковая падвеска (7); пласткаватая грыўня (8); пятлістая падвеска (9).

«Попісу», даўж. адной гародні каля 3,55 м. Баявыя завяршэнні гародняў і «всих хором» замка мелі наверсе «бланки» — баявыя пляцоўкі, пярэдція сценкі якіх былі з бярвён. Звернутыя ў бок става гэтыя сценкі былі «дошками переслые» (загароджаны дошкамі). Сярод узбраення Р. з. ў інвентары згадваюцца «на тых обланках дельце железное пол 8 пяди в нём, куля с курачое яйцо, на деревяном козле, ложе железом оковавое, смолою облито, нижли ложе попсовалосе», «гаковниц великих 3 по 9 пядей, с формами и со всими приправами, коротшых (гакаўніц) 5 по 5 пядей... кули большие зо всими приправами... ку обороне, кий старосвецкий, ручниц 7 зо всими приправами, а 10 гаркабузов...». Былі таксама запасы свінцу («2 камени»), пораху («бочечка одна малая, якобы полбарыла, у другой дежечце ручничного пороху 20 фунтов, особливе теж у лукне 50 фунтов...») і інш. Перад замкам былі размешчаны арсенал, 2 млыны, сядзібны дом, лазня, бровар і інш. гасп. пабудовы. У час «Попісу» Р. з. быў яшчэ «добрага будованья, не гнилого». Цяпер замчышча часткова разбурана і занята сучаснай забудовай.

*Літ.*: 1200. *М. А. Ткачоў.*

**РАДЗІМІЧЫ,** усходнеславянская этнічная супольнасць. Жылі ў міжрэччы Дняпра і Дзясны па цячэнні Сажа і яго прытоках. Паводле летапісу, назва паходзіць ад імя Радзім, на чале з якім прыйшлі з прапольскіх (ляшскіх) зямель. Папярэднікамі Р. у Пасожжы былі носьбіты *калочынскай культуры.* Займаліся земляробствам, жывёлагадоўляй, рамёствамі (жалеза- і дрэваапрацоўчае, ювелірнае, ганчарнае, гарбарнае), паляваннем, рыбалоўствам, бортніцтвам, прадзеннем, ткацтвам. Найбольш даследаваныя археал. помнікі — курганныя могільнікі 10—12 ст. *Абідавічы, Ветачка, Вішанька, Гадзілавічы, Каласы, Мадора, Нісімкавічы, Ходасавічы, Шапчыцы, Юдзічы, Эсьмоны* і інш. Пахавальныя абрады — трупаспаленне (8—10 ст.), з канца 10 да пач. 12 ст. трупапалажэнне на гарызонце, у падкурганнай яме. Характэрная адзнака — наяўнасць попельна-вугальнага пласта ў форме «вогненнага круга», у цэнтр якога і клалі нябожчыка. Сярод пахавальнага інвентару шмат упрыгожанняў, прадметаў побыту, радзей сустракаюцца прылады працы. Для мужчынскіх пахаванняў характэрны паясныя кольцы, інш. дэталі пояснога набору, зрэдку зброя. Характэрныя племянныя адзнакі Р.— бронзавыя або сярэбраныя 7-прамянёвыя і 7-лапчастыя скроневыя кольцы, біэліпсоідныя, язычковыя, пятлістыя, гронкавыя падвескі, пласцінiстыя грыўні. У жаночым касцюме спалучаліся 7-прамянёвыя і пярсцёнкападобныя скроневыя кольцы, зоркападобныя спражкі, дробны бісер, золаташкляныя пацеркі і падвескі, якія сімвалізавалі нябесныя свяцілы. Знаходкі з курганоў Р. даследчыкі падзяляюць на 22 катэгорыі: прылады працы, каля 15 катэгорый упрыгожанняў, прадметы гасп. ўжытку, побыту, конскага рыштунку, зброя, цацкі, посуд. Знойдзены манеты, якія выкарыстоўваліся як падвескі ў маністах: дырхемы *(Бацвінава, Чабатовічы)*, срэбранікі Уладзіміра 10 ст. з вушкамі *(Вотня)*, брактэаты (Гадзілавічы). У знаходках вылучаюць 3 перыяды: 2-я пал. 10 ст.— пач. 11 ст., большая частка 11 ст. і канец 11—1-я чвэрць 12 ст. Археал. даследаванні пацвярджаюць, што завяршэнне славянізацыі радзімічамі ўсходнебалцкага насельніцтва адбывалася ва ўмовах фарміравання Кіеўскай Русі. У канцы 1-га тысячагоддзя знаходзіліся на ступені фарміравання класавых адносін, упраўляліся князямі, старэйшынамі. У 885 кіеўскі кн. Алег вызваліў Р. ад залежнасці хазараў і абклаў іх данінай. У 907 у складзе яго войска Р. ўдзельнічалі ў паходзе на Візантыю. У пач. 970-х г. выйшлі з-пад улады кіеўскіх князёў, у 984 былі разбіты на р. Пяшчань каля Прапошаска (Слаўгарад) ваяводам кн. Уладзіміра Святаславіча Воўчым Хвастом, і іх землі замацаваліся ў складзе Кіеўскай Русі. З 11 ст. тэрыторыя Р. у Чарнігаўскім княстве, з пач. 12 — яе паўн. частка пад уладай Смаленска. Да 12 ст. адносяцца нісьмовыя звесткі пра гарады на зямлі Р.— Крычаў (Кречют, 1136), Слаўгарад (Прупой ці Прапошаск, 1136), Гомель (Гомий, 1142), Рагачоў (1142), Чачэрск (Чичерск, 1159). Апошняе ўпамінанне Р. у летапісе пад 1169.



Да арт. **Радзімічы.** Выява радзімічанкі. Рэканструкцыя І. У. Чаквіна па чэрапе з курганнага могільніка Юдзічы Рагачоўскага р-на. 11 ст. Скульптар Л. П. Яшэнка.

*Літ.*: 145, 1016, 1063, 1121.

*У. У. Багамольнікаў, А. А. Макушнікаў, Г. В. Штыхаў.*

**РАДУГА,** археал. помнікі каля в. Радуга Веткаўскага р-на.

Гарадзішча. За 1 км на ПдУ ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадок, на мысе, утвораным 2 глыбокімі ярамі. Пляцоўка авальная, памер 29×32 м, з трох бакоў умацавана валам выш. каля 2 м, шыр. 4 м. З боку поля прасочаны роў глыб. 1,5 м. Вядома з 1910, абследавалі ў 1936 А. М. Ляўданскі і А. Дз. Каваленя, у 1976 С. М. Васільева.

Селішча эпохі Кіеўскай Русі. За 100 м на ПдУ ад вёскі, на 10—15-метровай тэрасе правага берага Сажа. Даўж. 120—140 м, шыр. 40—50 м. Абмежавана 2 ярамі. Выявіў у 1978 і абследаваў у 1978—80 А. А. Макушнікаў. Культурны пласт у агаленнях 0,1—0,2 м. Знойдзена ганчарная кераміка.

Курганны могільнік радзімічаў. На левым беразе Сажа, у лясным урочышчы, 64 насыпы. У 1888 Е. Р. Раманаў раскапаў 3 курганы. Пахавальны абрад — трупапалажэнне галавой на З. Каля чэрапа мужчынскага шкілета знойдзены гліняны гаршчок, каля жаночага — 7-прамянёвыя скроневыя кольцы, лунніцы, пацеркі, пярсцёнак, жал. колцы-прывескі. У адным кургане пахаванне зроблена ў яме. Выяўлены рэшткі труны, 7-прамянёвыя скроневыя кольцы, пацеркі, бранзалет. Датуецца канцом 10 — пач. 12 ст.

*Літ.*: 733, 981, 988.

*С. М. Васільева, А. А. Макушнікаў.*

**РАДЫЕВУГЛЯРОДНЫ МЕТАД ГЕАХРАНАЛОГІІ,** метад вызначэння абсалютнага ўзросту горных парод і іншых геалагічных утварэнняў. Заснаваны на ўласцівасцях радыеактыўнага ізатопа вугляроду-14 ($^{14}C$), перыяд паўраспаду якога складае 5730 гадоў. Гэты ізатоп няспынна ўтвараецца ў высокіх слаях атмасферы ў выніку спалучэння азоту са свабоднымі нейтронамі, якія з'яўляюцца пад уздзеяннем касмічнага выпраменьвання. У працэсе абмену рэчываў ён засвойваецца жывымі арганізмамі і ўключаецца ў кругазварот вугляроду, які адбываецца ў атмасферы, гідра- і біясферы зямлі. Таму матэрыялам для аналізу служаць розныя арганічныя рэчывы (вугаль, косці, дрэва і інш.). Магчымасці метаду абмежаваны апошнімі 50—60 тыс. г. Шырока выкарыстоўваецца для датавання геалагічных і археал. аб'ектаў. Пры аналізе ўлічваецца магчымае забруджванне радыенуклідамі ў нашы дні. Метадам $^{14}C$ атрыманы датаван-

не (узрост) найб. старажытных на Беларусі палеалітычных паселішчаў *Юравічы* (26 470 ± 420) і *Бердыж* (23 470 ± 180 г. таму назад), неалітычнага паселішча *Зацэнне* (3500 ± ± 75 г. таму назад). Пры дапамозе гэтага метаду на тэр. Беларусі прадатавана каля 200 геалагічных помнікаў, што дазволіла распрацаваць і ўдакладніць геахраналагічную шкалу позняга *плейстацэну* і *галацэну*.

*Літ.*: 184. *А. Г. Калечыц.*

**РАДЫЕКАРБО́ННАЕ ДАТАВА́ННЕ,** гл. *Радыевугляродны метад геахраналогіі.*

**РАЖКІ́,** курганны могільнік каля вёсак Ражкі і Бабашкі Браслаўскага р-на. За 300 м ад дарогі Браслаў — Плюсы, у лесе. 4 насыпы выш. 0,5—7 м, дыям. 7—10 м. Даследавала 2 курганы ў 1981 Л. У. Дучыц. У кожным насыпе выяўлены па 3 попельна-вугальныя праслойкі таўшч. да 0,2 м.

*Літ.*: 341. *Л. У. Дучыц.*

РАДЗІМІЧЫ

Рассяленне радзімічаў у 9—12 ст ст.

Найбольш даследаваныя курганныя могільнікі радзімічаў (на тэрыторыі Беларусі)

1 Хмялянец
2 Гадзілавічы
3 Дзяніскавічы

Аўтар карты У.У.Багамольнікаў

**РАЗА́НА,** сярэбраная грашовая адзінка Стараж. Русі, фрагмент куфіцкага *дырхема*, пазней — зах.-еўрап. *дэнарыя*. У 10—11 ст. Р. (маса 1 г) раўнялася 1/2 *куны*, 2/5 *нагаты*, 2/3 *вевярыцы*, у 12 ст.— 1 куне, якая стала ўдвая лягчэй.

**РАЗЕ́Ц,** востраканцовая прылада з пласціны ці адшчэпа крэменю, прызначаная для разьбы, гравіроўкі, выразання пазоў і расчлянення косці, рога, дрэва. Рабочая частка, або галоўка Р., звычайна у форме двухграннага вугла, утварае пры перасячэнні граней вузкі кант, які нясе асн. функцыянальную нагрузку. Адна з граней галоўкі Р. звычайна афармлялася з дапамогаю спец. тэхнічнага прыёму — разцовага сколу, вузкай пласцінкі, адшчэпленай ударным спосабам у тарцовай плоскасці загатоўкі. Другая грань атрымлівалася пры простым абломванні канца пласціны метадам усячэння яго крутой рэтушшу або шляхам знішчэння другога разцовага сколу. У залежнасці ад спосабу падрыхтоўкі рабочай часткі вылучаюць 3 асн. тыпы Р.: на вугле зламанай загатоўкі; рэтушныя, ці бакавыя; двухгранныя, ці сярэдзінныя. Былі шырока распаўсюджаны ў эпоху позняга палеаліту. На тэр. Беларусі існавалі на працягу каменнага веку.

*Літ.*: 841, 1461. *В. Я. Кудрашоў.*

**РАКАВЕ́ЦКІ МАНЕ́ТНЫ СКАРБ.** Знойдзены ў в. Ракаўцы Смаргонскага р-на ў 1971. Вядомы 826 манет: 810 куфіцкіх дырхемаў (цэлых і фрагментаваных), 14 *манет-перайманняў* і 2 *манетападобныя пласцінкі.*

Д ы н а с т ы я А б а с і д а ў (16 экз.): ал-Мутавакіль [847—861], ал-Мутамід [870—892], ал-Мутадзід [892—902], ал-Муктафі [902—908], ал-Муктадзір [908—932], ал-Кахір [932—934] ар-Ралы [934—940], ал-Мутакі [940—944], манетныя двары ал-Ахваз, ал-Басра, Мадынат ас-Салам, Рас ал-Айн, Сураман-Раа. Э м і р ы С а м а н і д ы (785 экз.): Ісмаіл ібн Ахмад [892—907], Ахмад ібн Ісмаіл [907—914], Ісхак ібн Ахмад [914], Наср ібн Ахмад [914—943], Нух ібн Наср [942—954], манетныя двары Андэраба, Балх, Бухара, Маадэн, ал-Мухамедыя, Нісабур, Самарканд, ал-Хутал, аш-Шаш. Э м і р ы Б у і д ы (2 экз.): Імад ад-даула Алі [934—949], манетны двор Шыраз. Э м і р ы С а ф а р ы д ы (1 экз.): Амр ібн Лайс [878—900], манетны двор Шыраз. В о л ж с к а я Б у л г а р ы я (4 экз.): эміры Бармак і Мікаіл ібн Джафар, манетны двор не вызначаны. П е р а й м а н н і (14 экз.): імітацыя саманідскіх дырхемаў Ахмада ібн Ісмаіла і Насра ібн Ахмада, чаканеных у Андэрабе, Самаркандзе і аш-Шашы. Н я в ы з н а ч а н ы я ф р а г м е н т ы куфіцкіх дырхемаў (2 экз.). М а н е т а п а д о б н ы я п л а с ц і н к і, метралагічна блізкія да дырхема (2 экз.). Большасць дырхемаў (628 экз.— 77,15 % скарбу) прадстаўлена саманідскай чаканкай Самарканда (272 экз.) і аш-Шаша (356 экз.). Скарб ухаваны ў 952—953. Зберагаецца ў Ін-це гісторыі АН Беларусі.

*Літ.*: 1586. *В. Н. Рабцэвіч.*

**РАКАЎ,** вёска ў Валожынскім р-не, цэнтр сельсавета, на р. Ісလач. Па пісьмовых крыніцах вядомы з 15 ст. Размяшчаўся на старым гандл. шляху з Мінска на Валожын і Ашмяны. У 1465 перададзены вял. князем ва ўласнасць Кежгайлам і належаў ім да 1550, потым да 1-й пал. 17 ст.— Завішам, пасля Сангушкам, Салагубам.

За 500 м на Пд ад мястэчка, на узвышшы, у пойме левага берага р. Іслач вядома замчышча. Замак тут узведзены ў пач. 16 ст. на гарадзішчы жал. веку. Яго пляцоўка авальная, памер 52×22 м, умацавана валамі выш. да 2 м і равамі глыб. 0,3—0,4 м. Прасочваюцца контуры бастыёнаў. На Пн пляцоўка звужана, валы размыкаюцца, верагодна, тут быў уезд. Па пісьмовых крыніцах замак існаваў да канца 18 ст. У 19 ст. з паўд. боку замчышча захоўваліся рэшткі муру. Абследавалі ў 1976 Э. М. Зайкоўскі, у 1979 А. Р. Мітрафанаў, у 1986 Г. М. Сагановіч. Выяўлены фрагменты ляпнога посуду *штрыхаванай керамікі культуры.* На З ад замчышча ў пойме р. Іслач вял. курган (не даследаваўся). У цэнтры вёскі выяўлены культурны слой, сярод знаходак кафля, гліняное і шкляное начынне 16—18 ст. *Г. М. Сагановіч.*



Драўлянае **рала** 13 ст. з Брэста.

**РАЛА,** старажытная драўляная бездавальная вупражная ворная прылада з нізкім замацаваннем цяглавай сілы. У залежнасці ад канструкцыі працоўнай часткі і спосабу выкарыстання падзяляюцца на Р. з полазам і Р. без полаза, паводле формы дышля — на прамадышальныя і крывадышальныя. Ва Усх. Еўропе Р. паявілася ў 1-й пал. 1-га тысячагоддзя н. э. з узнікненнем ворнага вупражнага земляробства, пра што сведчаць знаходкі драўляных Р. на Украіне (с. Жабічы Чарнігаўскай вобл. і с. Такары Сумскай вобл.) і Браншчыне (в. Сяргееўск). Да гэтага ж часу адносіцца крывадышальнае полазнае Р., знойдзенае ў тарфяніку каля в. Капланавічы Клецкага р-на. Яно зроблена са ствала дрэва з доўгім суком, мела завостраны полаз, а з процілеглага боку адтуліну для дзяржання, за якое трамаўся араты. Доўгі сук служыў дышлем, металічнага наральніка хутчэй за ўсё яшчэ не было. Гэта Р. пры нахіле магло няпоўна пераварочваць пласт зямлі і падразаць карані пустазелля. Другое драўлянае Р. 13 ст., знойдзенае ў Брэсце, выраблена з дубовага ствала даўж. 155 см, які выконваў ролю дышля. Ад яго пад вуглом 28° адыходзіў сук даўж. 43 см, які складаў рабочую частку Р. Магчыма, гэта Р. мела металічны наральнік, але пра гэта можна толькі меркаваць, бо рабочы канец Р. абламаны. На дышлі было 3 адтуліны для дзяржання, для металічнага чарэсла і для дэталі, з дапамогай якой можна было падоўжыць параўнальна невял. дышаль. На паселішчы 8—9 ст. *Хатомель* Столінскага р-на знойдзены 2 шырокія асіметрычныя наральнікі з плечукамі даўж. 9,8—10,5 см, шыр. 6,6—7 см і металічнае чарэсла даўж. 40 см, якое служыла для падразання пласта зямлі. Гэтыя наральнікі належалі падэшвеннаму Р. з чарэслам, якое магло не толькі ўзрыхляць зямлю, але пры пэўным яго становішчы, дзякуючы шырокім плечукам, пераварочваць яе верхні пласт. Каля в. Дворыцкая Слабада Мінскага р-на знойдзены шыракалопасцевы наральнік 10 — пач. 11 ст. з плечукамі, які быў удвая даўжэйшы за хатомельскія, і чарэсла. Р. з гэтым наральнікам можна было араць больш глыбока і якасна. Металічныя наральнікі для Р. без полаза знойдзены ў Брэсце, Гродне, каля в. Збароў Рагачоўскага р-на, Клецку, Навагрудку і інш. Нягледзячы на тое, што ў пач. 2-га тысячагоддзя н. э. на тэр. Беларусі пашырылася больш прагрэсіўная ворная прылада — *саха*, Р., дзякуючы сваёй манеўранасці, дажыло да 20 ст.

*Літ.*: 582, 590, 601.

*Т. М. Каробушкіна.*

**РАМА́НАВІЧЫ,** археал. помнік каля в. Раманавічы Гомельскага р-на. За 500 м на У ад вёскі, ва ўрочышчы Селішча, на пясчаных дзюнах правага берага р. Іпуць. Выявіў у 1890 М. Ф. Беляшэўскі, абследавалі Е. Р. Раманаў у 1924, А. В. Кротаў і К. М. Палікарповіч у 1957—58, І. І. Арцёменка, даследавалі ў 1962—63 І. В. Гаўрылава, у 1976 А. Г. Калечыц. Культурны пласт 0,1—0,2 м.

Знойдзены рэшткі агнішчаў, больш за 30 тыс. вырабаў з крэменю (ад сыравіны да гатовых прылад працы), кераміка. Колькасна пераважаюць адходы крамянёвай вытворчасці. Сярод крамянёвага інвентару — скрабкі, сякеры, разцы, праколкі, свярдзёлкі, скрэблы, скоблі, сярпы, прылады тыпу «пік», больш за 70 наканечнікаў стрэл, больш за 100 трапецападобных і інш. укладышавых прылад, рэтушаваных пласцін, адшчэпаў. Знаходкі даюць уяўленне пра крамянёвую вытворчасць на працягу амаль усяго часу яе існавання. Знойдзена кераміка эпохі неаліту з грабеньчатым, ямкавым, лапчастым арнаментам, бронзавага веку з адбіткамі шнура, лінейнага штампа, насечкамі, нарэзкамі, вусенічкамі і інш., якія ўтвараюць дыяганальныя, гарызантальныя, елачныя, ромбападобныя, трохвугольныя і інш. ўзоры. Некаторыя пасудзіны маюць наколы, зробленыя вуглом адступаючай лапаткі. Найбольш стараж. знаходкі адносяцца да фінальнага палеаліту, ёсць мезалітычныя *(сожская культура)* і неалітычныя *(верхнедняпроўская культура)* рэчы, матэрыялы ранняга і сярэдняга перыядаў бронзавага веку *(сярэднедняпроўская культура, сосніцкая культура)*, жал. веку *(мілаградская культура, зарубінецкая культура)*, сярэднявечча.

*Літ.*: 78, 122, 217, 863. *А. Г. Калечыц.*

**РАМА́НАЎ** Еўдакім Раманавіч [30.8(11.9).1855, мяст. Нова-Беліца, цяпер у межах Гомеля — 20.1.1922], беларускі археолаг, фалькларыст, этнограф, краязнавец, педагог. Правадзейны член Рус. геаграфічнага т-ва (1886), Маскоўскага т-ва аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі (1886), Маскоўскага археал. т-ва (1890, чл.-кар. 1886), Віцебскага статыстычнага к-та (1891). Скончыў Гомельскую прагімназію (1870), курсы настаўнікаў рус. мовы і гісторыі (1872). Працаваў настаўнікам (1872—86), інспектарам нар. вучылішчаў у Віцебскай, Гродзенскай і Магілёўскай губ. (1886—1906). Чл. Часовай камісіі па ўладкаванні Віленскай публічнай бібліятэкі і музея (1906—16). У 1897—1903 рэдактар аддзела газеты «Могилёвские губернские ведомости». З 1910 заг. секцыі этнаграфіі і археалогіі Паўн.-Зах. аддзялення Рус. геаграфічнага т-ва. У 1917—22 жыў у Стаўрапалі. З 1880 друкаваўся ў газеце «Берег» (Санкт-Пецярбург). Аўтар прац па археалогіі, этнаграфіі, фальклярыстыцы, гісторыі, мова-, літаратура- і музеязнаўству, археаграфіі. Скразной лініяй навук. дзейнасці Р. стала яго думка аб самабытнай нац. культуры бел. народа, які мае права на самасцвярджэнне. Мерка-



Е. Р. **Раманаў.**

ваў выдаць фальклорна-этнаграфічныя матэрыялы ў 15 кнігах. Пры яго жыцці выйшла 9 тамоў «Беларускага зборніка» (1886—1912). 10-ы том выпусціў Інбелкульт, наступныя падрыхтаваныя Р. 11—14-ы зборнікі матэрыялаў загінулі ў час нямецка-фашысцкай агрэсіі, 15-ы знік пры невядомых абставінах. Загінуў багаты асабісты архіў вучонага. Р. аўтар каля 50 публікацый па бел. археалогіі. Працаваў над стварэннем археал. карт Магілёўскай, Віцебскай і Гродзенскай губ. (не выйшлі). У Львоўскім гіст. архіве захоўваецца рукапіс «Археалагічнай карты Магілёўскай губерні». Р. выпусціў 3 кнігі «Могилёвской старины» (1900—03), 2 кнігі «Матэрыялаў па этнаграфіі Гродзенскай губерні» (1911—12). Адно з найб. выдатных яго адкрыццяў — Люцынскі могільнік Віцебскай губ. (выявіў 293 пахаванні). Адкрыў помнік эпіграфікі 12 ст. Барысаў камень. Даследаваў археал. помнікі Падняпроўя і Пасожжа. Высвятляў дрыгавіцка-крывіцкае пагранічча. Даследаваў гарадзішча і Замкавую гару ў Магілёве, курганы ў Нова-Быхаве, Брусневічах, Лучыне Магілёўскай губ., у маёнтку Кахоўка Віцебскага пав. Каля Нова-Быхава адкрыў першы на Беларусі могільнік калочынскага тыпу. Пры даследаванні курганоў каля Грaзіўца (паміж Клімавічамі і Лобжай) вывучаў дэталі пахавання па абраду трупаспалення. Ведаў Бердыжскую палеалітычную стаянку. Сабраў звесткі пра 1000 гарадзішчаў Беларусі. Толькі ў Віцебскай губ. налічыў 10 685 групавых і адзіночных курганоў. Удзельнічаў у рабоце *Археалагічнага з'езда дзевятага* ў Вільні (1893). Пісаў пра манетныя скарбы, знойдзеныя на Магілёўшчыне. Звяртаў увагу вучоных на вывучэнне геаграфічных назваў. Вёў антрапалагічныя даследаванні. Вывучаў гарады Полацкай зямлі, у прыватнасці Лукомль, яго манастыр. Выступаў у абарону помнікаў гісторыі і культуры Беларусі, асуджаў грабежніцтва скарбашукальнікаў. Шмат знаходак перадаў у Магілёўскі, Віцебскі, Віленскі музеі. Працуючы ў музеі ў Вільні, на кожны экспанат даваў падрабязную анатацыю. Апублікаваў працу А. Меера «Апісанне Крычаўскага графства 1786 года» (1901), а таксама паэму «Тарас на Парнасе» (1900). Папулярызаваў бел. літаратуру, асабліва творы В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча. Дзейнасць Р. адзначана залатым і вял. сярэбраным медалямі, дыпломамі навук. т-ваў.

*Тв.:* Борисов камень в селе Высоком Городце Сенненского уезда Могилёвской губернии // Могилёвские губернские ведомости. 1886. № 42; Заметки по поводу учреждения Полоцкого археологического кружка // Витебские губернские ведомости. 1886. № 73; Раскопки в Могилёвской губернии в 1886 г. // Древности: Тр. Московского археологического о-ва. М., 1888. Т. 12, вып. 1; Материалы по исторической топографии Витебской губернии. Уезд Велижский. Могилёв, 1898; Первоисточники для истории Могилёвского края. Вып. 1. Одесса, 1916.

*Літ.*: 97, 98, 99, 115, 513, 518, 1276, 1322. *Г. А. Каханоўскі.*

**РАМЕ́ЛЬ**, археал. помнікі каля в. Рамель Столінскага р-на.

Могільнік. На паўн.-ўсх. ускраіне вёскі, ва ўрочышчы Ляшча. Адкрыў у 1954 і даследаваў 196 м² у 1954—55 Ю. У. Кухарэнка. Выяўлена 7 пахаванняў. Пахавальны абрад — трупаспаленне за межамі могільніка. Адно пахаванне з'яўляецца *кенатафам.* Рэшткі крэмацыі змяшчаліся на дне круглых ці авальных ям. У пахавальным інвентары найбольш гліняных пасудзін, што размяшчаліся з усх. боку рэшткаў крэмацыі. У пахаваннях трапляецца ад 1 да 3 пасудзін рознага прызначэння. Адно пахаванне ніякіх рэчаў не мела. Сярод знаходак гаршкі (7 экз.), міскі (4 экз.), кубкі (1 экз.), стопкі (1 экз.). Посуд пераважна карычневы глянцаваны, у двух пахаваннях выяўлены гаршкі з загладжанай паверхняй, адзін з іх арнаментаваны пазногцевымі ўціcканнямі па плечуку, другі — наляпным валікам з пальцавымі защыпамі. У двух пахаваннях знойдзена па адной сярэднелатэнскай фібуле. У 1967 К. В. Каспарава даследавала 152 м² могільніка і выявіла разбуранае пахаванне. Знойдзены кальцыніраваныя косці і фрагмент чорнаглянцаванай міскі. Датуецца 1 ст. да н. э.

Селішча-1 *зарубінецкай культуры.* За 500 м на ПдУ ад могільніка. Абследаваў у 1954 Кухарэнка. Выяўлены рэшткі шурпатых, гузаватых, радзей глянцаваных пасудзін.

Селішча-2. За 400 м на ПнУ ад могільніка. Памер 300×100 м. Адкрыла і даследавала 616 м² у 1967 Каспарава. Культурны пласт 0,5—0,6 м. Выяўлена прамавугольнае паўзямлянкавае жытло зрубнай канструкцыі (6,8×5 м) з агнішчам у цэнтры. Унутры жытла было 5 круглых ям дыям. 1—1,5 м, глыб. 0,2—0,3 м, якія ўтрымлівалі вугаль, попел, рэшткі посуду, косці жывёл. Акрамя таго, у жытле знойдзена 455 фрагментаў грубаляпнога і 78 глянцаванага посуду, 5 гліняных праслін, нож з гарбатай спінкай. У раскопе выяўлены 24 слупавыя і гасп. ямы.

Знойдзены грубаляпны кухонны і глянцаваны сталовы посуд. Кухонны посуд (75 % усіх знаходак) пераважна з шурпатай паверхняй, арнаментаваны зашчыпамі, ямкамі, насечкамі, пазногцевымі ўціcканнямі, нанесенымі часцей за ўсё па краі венчыка, радзей па тулаву. Асобныя фрагменты сталовага посуду ўпрыгожаны шматраднымі расчосамі, а таксама спалучэннямі іх з налепленымі шышачкамі і валікамі. Насельніцтва вырошчвала проса, пшаніцу, ячмень, гарох, авёс, каноплі, разводзіла буйную рагатую жывёлу, свіней, коней, дробную рагатую жывёлу. На Пн ад жытла ў адной з ям упершыню ў гэтым арэале знойдзены 3 фрагменты антычнай сінопскай амфары. Сярод іншых знаходак — гладкая сярэднелатэнская фібула з дроту і паўтараабаротнае бронзавае кольца. Датуецца 2 ст. да н. э.— рубяжом н. э.

Селішча-3. За 1,5 км на ПдУ ад могільніка, на пясчаным узгорку. Выявіла ў 1967 Каспарава.

*Літ.*: 502, 637. *А. А. Егарэйчанка.*



П. А. Рапапорт.

**РА́ННІ ЖАЛЕ́ЗНЫ ВЕК**, гл. ў арт. *Жалезны век.*

**РАПАПО́РТ** Павел Аляксандравіч (29.6.1913, Пецярбург — 11.9.1988), рускі археолаг, гісторык архітэктуры. Д-р гіст. навук (1965). Скончыў Ленінградскі інжынерна-будаўнічы ін-т (1937). Працаваў у Ленінградскім аддзяленні Ін-та археалогіі АН СССР (1939—88). Выкладаў гісторыю архітэктуры ў Ленінградскім ін-це жывапісу, скульптуры і архітэктуры Акадэміі мастацтваў СССР. Даследаваў праблемы гісторыі і археалогіі манументальнай архітэктуры Кіеўскай Русі і Маскоўскай дзяржавы. Зрабіў вял. ўклад у гісторыю даследавання полацкай і гродзенскай архіт. школ 12 ст. Вывучаў Камянецкую вежу і царкву Барыса і Глеба ў Навагрудку. Правёў даследаванні Ніжняй царквы (разам з М. М. Вароніным, 1949), княжацкіх палат, Каложскай царквы і абарончай сцяны 12 ст. (сумесна з экспедыцыяй Спец. навукова-вытворчых рэстаўрацыйных майстэрняў Мін-ва культуры БССР, 1981, 1985, Гродна), Ваўкавыскага храма (1959), полацкіх княжацкіх палат (1976—77), царквы на Ніжнім замку ў Полацку (1977), полацкай царквы на Ірву (1977), Спаскай царквы Еф-

расіннеўскага манастыра (разам з Г. М. Штэндарам, 1976), храма-спачывальні ў Ефрасіннеўскім манастыры (1976), вял. сабора Бельчыцкага манастыра (1977) і Віцебскай Благавешчанскай царквы (разам з А. А. Трусавым і Т. С. Бубенькай, 1982). Абследаваў некалькі дзесяткаў гарадзішчаў на тэр. стараж. Турава-Пінскай і Полацкай зямель і ў гарадах т. зв. Чорнай Русі. Даў класіфікацыю іх па тыпах і размяшчэнні на мясцовасці, археалагічна вывучыў канструкцыю абарончых збудаванняў больш за 10 гарадзішчаў на тэр. Беларусі, у т. л. абарончыя збудаванні стараж. Ваўкавыска, Навагрудка, гарадзішча Турэцкая гара каля Слоніма і інш. Кіраваў падрыхтоўкай навук. кадраў археолагаў для Беларусі.

*Тв.:* Раскопки в Волковыске в 1959 г. // Сов. археология. 1963. № 1; Военное зодчество западно-русских земель X—XIV вв. Л., 1967; Полоцкое зодчество XII века // Сов. археология. 1980. № 3; Спасская церковь Ефросиньева монастыря в Полоцке (разам з Г. М. Штэндарам) // Памятники культуры: Новые открытия, 1979. Л., 1980; Дворец в Полоцке (разам з Е. В. Шолахавай) // Краткие сообщения Ин-та археологии АН СССР. М., 1981. Вып. 164; Памятник древнерусского зодчества в гродненском детинце (у сааўт.) // Памятники культуры: Новые открытия, 1987. М., 1988; Новые данные об архитектуре древнего Гродно // Древнерусское искусство: Художественная культура X — первой половины XIII в. М., 1988.

*Літ.:* 531. *А. А. Трусаў.*

**РАСА́ДЗІН** Сяргей Яўгенавіч (н. 30.7.1958, Гомель), беларускі археолаг. Канд. гіст. навук (1990). Скончыў Гомельскі дзярж. ун-т (1981). З 1984 навук. супрацоўнік Ін-та гісторыі АН Беларусі. Даследаваў гарадзішчы Падгор'е Добрушскага, Залатаміно Кармянскага р-наў і інш. Вывучае ўзаемадзеянне стараж. насельніцтва Беларусі і скіфаў у 8—3 ст. да н. э., гісторыю бел. археалогіі (невядомая спадчына Е. Р. Раманава).

*Тв.:* Неизданная книга: (Е. Р. Романов «Археологическая карта Могилёвской губернии») // История книги, книжного дела и библиографии в Белоруссии. Мн., 1986; Да пытання аб сувязях старажытнага насельніцтва Беларусі са скіфскімі землямі ў VIII—III стст. да н. э. // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1992. № 2.

**РАСКО́ПКІ АРХЕАЛАГІ́ЧНЫЯ**, раздзел *палявой археалогіі*, даследаванне археал. помнікаў пры дапамозе раскопвання *культурнага пласта* ў адпаведнасці з прынятай методыкай. Ажыццяўляюцца непасрэдна на мясцовасці, «у полі» — у прыбярэжнай паласе рэк і азёр *(стаянкі)*, на карэнных берагах далін і ўзгоркаў *(гарадзішчы, селішчы)* і інш. Ім папярэднічае падрыхтоўчы этап — знаёмства з мясцовасцю паводле тапаграфічных карт, геамарфалагічных, глебазнаўчых апісанняў, дэшыфровак аэрафотаздымак і інш. На падрыхтоўчым этапе выкарыстоўваюцца і аналізуюцца гістарыяграфія, музейныя і архіўныя матэрыялы, *археалагічныя карты* і планы, вынікі апытання мясцовых жыхароў (гл. *Апытальны ліст*), звесткі з легенд, паданняў, твораў фальклору, летапісаў, матэрыялы тапанімікі. Вывучаюцца працы краязнаўцаў, падарожнікаў, этнографаў, улічваюцца вынікі даследаванняў прыродна-геаграфічных і інш. экспедыцый. Збіраецца інфармацыя пра знаходкі ў час гідратэхнічных, будаўнічых, с.-г., земляных работ. Р. а. папярэднічае *археалагічная разведка* (пярвічнае і паўторнае дэталёвае абследаванне помніка, прыблізнае вызначэнне яго навук. вартасці). Пасля выяўлення помніка вызначаецца яго тэрыторыя, таўшчыня (магутнасць) і асаблівасць культурнага пласта, вышыня над узроўнем вады, наяўнасць пашкоджанняў, забудовы; складаецца план помніка, робіцца *планіграфія, стратыграфія*; вызначаецца характар і ўзрост знойдзеных вырабаў. У адпаведнасці з Адзінай сістэмай уліку помнікаў складаецца *пашпарт на помнік гісторыі і культуры, картка ўліку археалагічнага помніка;* робяцца фотаздымкі (панарамныя або перспектыўныя, з арыенцірамі і берагавой лініяй, аб'ектныя або самога помніка, лакальныя або дэталёвыя, дзе паказаны асобныя часткі і важныя месцы помніка, і інш.). Пры больш дасканалым вывучэнні помніка фіксуюцца характэрныя асаблівасці мікрарэльефу, змены расліннага покрыва на ім, закладваюцца шурфы або свідравіны для вывучэння глебы, культурных адкладаў і гарызонтаў. У апошні час выкарыстоўваецца геаакустычная (сейсмічная) разведка, магнітна-метрычны пошук і металашукальнікі, электрапрафіляванне (паводле электраправоднасці глебы), радыелакацыйнае «прасвечванне», геахімічны, фасфатны аналіз глебы і інш. прыёмы, распрацаваныя ў прыродазнаўчых і фізіка-тэхнічных навуках. Пасля вызначэння навуковай каштоўнасці помніка вырашаецца пытанне аб мэтазгоднасці Р. а.



С. Я. Расадзін.



Група ўдзельнікаў раскопак археалагічных стаянкі Бердыж (Чачэрскі р-н). 1928.

Праводзяцца паводле спец. навуковай методыкі і спецыфічныя для розных відаў помнікаў. Іх ажыццяўляюць толькі спецыялісты-археолагі па спец. дазволах — т. зв. *адкрытых лістах*, якія выдаюцца Ін-там гісторыі Акадэміі навук Беларусі. Напярэдадні Р. а. участак помніка (стаянкі, гарадзішча, селішча) разбіваюць на квадраты: 1×1 м (для палеаліту, мезаліту), 2×2 м (для больш позніх эпох), часам 5×5 м, 10×10 м (антычнасць, феадалізм). Вяршыні квадратаў ніveлююць ад пастаяннага рэпера. Пры даследаванні *могільнікаў* закладваюць раскопы шыр. 4 м (2 квадраты), у працэсе Р. а. часова пакідаюць некранутыя палосы — «броўкі» шыр. 0,2—0,5 м праз 2—4 м, часта ўзаемна перпендыкулярныя, для назірання за стратыграфіяй. Пры гэтым імкнуцца, каб «броўкі» праходзілі праз западзіны (магчыма, ад жытлаў ці гасп. ям), пахаванні, вяршыні курганоў і інш. *Курганы* разам з акаймоўваючымі іх раўкамі раскопваюць па палавінках ці чвэртках суцэльна — «на знос», шырыня «бровак» да 1 м. Валы і равы гарадзішчаў пераразаюць траншэямі шыр. 2—4 м, выяўляюць культурны пласт пад валам. Спачатку з раскопу выдаляюць баласт — пустую пароду (калі яна ёсць). Культурны пласт разбіваюць па ўмоўных гарызантальных пластах таўшч. 5 см (палеаліт), 10 см (мезаліт, антычнасць, гарадзішчы, стараж. пахаванні), 20 см (неаліт, паселішчы жал. веку) або па куль-

турных, буд. гарызонтах — у адпаведнасці з страж. «дзённай» паверхняй помніка. Разборку кожнага пласта робяць вертыкальнымі тычкамі нажа, штыкамі рыдлёўкі і наступнай гарызантальнай «зачысткай» паверхні. Зямлю перабіраюць рукамі, прапускаюць праз глебавыя сіты, прамываюць на рашотах, каб выявіць усе, нават дробныя рэчы. Запаўненне жытлаў, гасп. ям выбіраецца па палавінах з дапамогай нажоў, шуфлікаў, спец. матык і пэндзляў. Камяні, рэшткі збудаванняў пакідаюць некранутымі.

У працэсе Р. а. шырока выкарыстоўваецца фатаграфаванне. Аналагічным спосабам вывучаюцца грунтавыя могільнікі. Раскопкі курганоў праводзяцца са зносам усяго насыпу. Даследчыкі пакідаюць некранутымі земляныя перамычкі — «броўкі» — для вывучэння і замалёўкі профіляў. Насып здымаецца тонкімі пластамі аднолькавай таўшчыні. Пасля зняцця кожнага пласта гарызантальная паверхня зачышчаецца і замалёўваецца. Расчыстка рэштках спалення ці касцяка робіцца нажом і пэндзлем, каб не зрушыць з месца косці або інш. прадметы. Расчышчанае пахаванне замалёўваюць, фатаграфуюць, потым рэчы запакоўваюць і забяспечваюць іх адпаведнымі этыкеткамі. На кожны пласт складаецца асобны план. На планы раскопу па пластах наносяцца ўсе рэперы, камяні, ямы (плямы), аб'екты (збудаванні), пахаванні і інш. пад парадкавымі нумарамі, рэчы (прылады працы, фрагменты посуду, косці і інш.), месцы, з якіх браліся пробы для аналізу. Маштабы планаў 1:10 (палеаліт, антычнасць, курганы), 1:20, 1:40 (паселішчы), 1:2, 1:5 і нават 1:1 для планаў пахаванняў («закрытыя комплексы»), жытлаў, гасп. ям, скарбаў («паўзакрытыя комплексы»), найб. значных дэталей. У адпаведных маштабах замалёўваюцца профілі (разрэзы) вертыкальных сценак і бровак раскопу. Знаходкі атрымліваюць надпісы-шыфры. Іх запакоўваюць па пластах і квадратах, прычым рэчы слабай захаванасці фіксуюцца клеявымі растворамі, потым кансервуюцца (гл. *Кансервацыя*). Складаюцца палявыя вопісы страж. рэчаў — знаходак па пластах, гарызонтах і квадратах. Падбіраюцца ўсе арганічныя рэшткі (косці, збожжа, рыбіна луска, ракавіны, дрэва, кальцыніраваныя косці трупаспаленняў і інш.), па спец. методыцы адбіраюцца пробы глебы для палеабатанічнага, спорапылковага радыевугляроднага і інш. аналізаў. Р. а. вядуць да некранутай падсцілаючай пароды — «мацерыка», потым перакопваюць яшчэ адзін «кантрольны» штык. Пасля даследаванняў раскоп разам з рэперамі закопваецца, участак рэкультывуецца, як правіла, гарадзішчы і курганы ўзнаўляюцца. Звычайна Р. а. ажыццяўляюцца на найб. значных помніках або ў зонах новабудоўляў, дзе ім пагражае разбурэнне. Мэтай Р. а. з'яўляецца атрыманне надзейнай археал. крыніцы для далейшага даследавання і гіст. вывадаў. Гл. таксама *Даследаванне археалагічнае*.

*Літ.:* 4, 775, 937.

*У. Ф. Ісаенка, Г. В. Штыхаў.*

**РАСКО́ПКІ СКАРБАШУКА́ЛЬНІЦКІЯ,** раскопкі з мэтай пошукаў наяўных або ўяўных каштоўнасцей. Для іх уласцівы некваліфікаванасць і адсутнасць навук. дакументацыі. Да Р. с. прыраўноўваюць поўнае або частковае разбурэнне помнікаў для гасп. мэт, пры правядзенні вайсковых вучэнняў і інш., калі таксама паяўляецца магчымасць знайсці некаторыя страж. рэчы. Пашыраны з даўніх часоў. Вядома, што яшчэ вавілонскі цар Набанід (555—538 г. да н. э.) праводзіў раскопкі ў пошуках рэштках страж. храмаў, а супляменнікі памерлых знатных скіфаў рабавалі іх курганы. На тэр. Беларусі Р. с. займаліся памешчыкі, сяляне, вайскоўцы і інш. З усведамленнем значэння археал. помнікаў прымаюцца меры барацьбы супраць Р. с. Паводле Закону аб ахове помнікаў гісторыі і культуры скарбашукальнікі прыцягваюцца да крымінальнай адказнасці (гл. ў арт. *Ахова помнікаў археалогіі*).

*У. У. Багамольнікаў.*

**РА́СНА,** жаночае скроневае ўпрыгожанне з серабра (найчасцей) ці золата. Складаецца з конусападобнай (у тэхніцы філіграні) галоўкі з прымацаванымі ланцужкамі, якія перамяжоўваюцца і закончваюцца ажурнымі бляшкамі, упрыгожанымі сканню, зерню, эмаллю. Р. мацавалася да галаўнога ўбору або да ачэлля. На Русь трапіла з Візантыі ў дамангольскі час і была пашырана ў княжацка-баярскім асяроддзі. Вядома па знаходках у скарбах канца 12 — пач. 13 ст. На Беларусі сярэбраныя Р., якія захаваліся цалкам, знойдзены ў *Вішчынскім грашова-рэчавым скарбе.* Рэшткі залатых Р. знойдзены ў Навагрудку (ланцужок з залатымі пацеркамі на канцах, авальная залатая бляшачка з перагародчатай чырвонай і зялёнай эмаллю), Полацку і Мінску.

*Літ.:* 1067.

*А. М. Ваганаў.*

**РАСО́ХІ,** паселішча бронзавага і жал. вякоў каля в. Расохі Мядзельскага р-на. За 2,5—3 км на ПдЗ ад вёскі, на краі 1-й надпоплаўнай тэрасы воз. Мядзел, каля перашыйку, што вядзе на паўвостраў Дубовы, ва ўрочышчы Дубавое. Выявіў у 1978, даследаваў 220 м² у 1979, 1986—87 Э. М. Зайкоўскі. Культурны пласт 0,3—0,8 м.

Знойдзены крамянёвыя прылады працы, большасць якіх выканана на адшчэпах (19 скрабкоў канцавых, паўкруглых і камбінаваных, 11 скобляў, скрэблы, укладыш з рэтушшу, вастрыё са сколатым рабочым краем, апрацаванае дробнай рэтушшу, нажападобныя пласціны



**Раскопкі археалагічныя** Віцебскага Верхняга замка (13—14 ст.). 1978.

і інш.), зброя (тронкі і абломак тронкаў наканечніка стралы, вастрыё наканечніка, апрацаванае пілаватай дробнай рэтушшу), невял. шліхтаваная сланцавая сякера, абпаленае гліняная грузіла з 2 адтулінамі, фрагменты жал. вырабаў, у т. л. сярпа. Знойдзены шматлікія фрагменты керамікі: слабаштрыхаваныя венчыкі рабрыстых і слоікападобных пасудзін позняга бронзавага і жал. вякоў, ляпнога гладкасценнага посуду банцараўскай культуры, з шурпатай паверхняй, глянцаванай (датуецца 4—5, магчыма, 6 ст.) і ганчарнай (ранне-сярэдневяковай і паліванай). Часу ранняй ганчарнай керамікі адпавядаюць шкляныя пацеркі (бочачкападобная з пазалотай і сіняя трохчасткавая). Паселішча засн. ў познім бронзавым веку, некаторы час выкарыстоўвалася ў 10—11 ст., магчыма, і пазней.

*Літ.:* 396. *Э. М. Зайкоўскі.*

**РАССВЕ́Т,** гарадзішча *мілаградскай культуры* каля в. Рассвет Рэчыцкага р-на. За 4 км на ПнУ ад вёскі, на левым беразе р. Ведрыч, ва ўрочышчы Гарадзінка, на невысокім пясчаным пагорку сярод забалочанага поплаву. Мае авальную форму, умацавана кальцавым валам выш. 1,5—1,8 м, шыр. 16 м, даўж. па перыметры 260 м і ровам шыр. 3 м, глыб. 0,3—0,5 м. Агульная пл. гарадзішча 7260 м². Выявіў у 1981 і даследаваў 160 м² у 1983 М. І. Лашанкоў. Культурны пласт 0,3—0,4 м.

Знойдзена 1650 фрагментаў ляпной керамікі ранняга жал. веку пераважна мілаградскага тыпу (гаршкі з круглым тулавам і дном і плаўна адагнутым венчыкам; з яйцападобным тулавам, закругленым дном і рэзка адагнутым венчыкам; шарападобныя з вертыкальным венчыкам; яйцападобныя з закругленым дном і загнутымі ўнутр краямі без венчыка, арнамент нанесены толькі на шыйцы). Некалькі кавалкаў керамікі з храпаватай паверхняй датуюцца 1 ст. да н. э. Выяўлены камяні ад зерняцёрак, крамянёвы нож з масіўнага пласціністага адшчэпа, апрацаваны дробнай рэтушшу, арнаментаваная гліняная пацерка цыліндрычнай формы, гліняныя прасліцы біканічнай і круглаватабіканічнай формы; косці быка, каня, свінні, авечкі ці казы, сабакі, курыцы, дзіка, бабра, зайца, птушак. Гарадзішча датуецца 4—2 ст. да н. э.

*Літ.:* 651, 694, 695. *М. І. Лашанкоў.*

**РАТА́ЙЧЫЦЫ,** група археал. помнікаў каля в. Ратайчыцы Камянецкага р-на.

Могільнік. За 800 м на У ад вёскі, справа ад дарогі на в. Млын, пры ўпадзенні р. П'яўка ў р. Лясная. Выяўлены ў 1929 пры земляных работах. Пахавальны абрад — трупаспаленне. Знойдзены цыліндрычныя чырвоныя пацеркі. Адносіцца да паморскай культуры, датуецца 4—2 ст. да н. э. Могільнік абследаваў у 1937 К. Салевіч, у 1980—81, 1983 і 1986 Т. М. Каробушкіна. У 1962 Ю. У. Кухарэнка выявіў і даследаваў 2 пахаванні 11—13 ст. па абраду трупапалажэння ў прамавугольных ямах.

Знойдзена трохпацеркавае бронзавае скроневае кальца, на якім спіраллю накручаны тонкі бронзавы дрот. У адрозненне ад кольцаў кіеўскага тыпу пацеркі не ажурныя, а гладкія.

Курганны могільнік дрыгавічоў. За 300 м на Пн ад вёскі на левым беразе р. П'яўка. Вядомы з 19 ст. Абследавалі ў 1937 К. Салевіч, у 1980—81, 1983, 1985—86 Каробушкіна, даследаваў 29 курганоў у 1959—60 І. В. Біруля. Захавалася 8 насыпаў выш. 0,2—0,7 м, дыям. 4—8 м, раней іх аснова была абкладзена камянямі. У 4 насыпах пад дзірваном выяўлена каменная вымастка. Пахаванні ў асноўным адзіночныя. Пахавальны абрад — трупапалажэнне галавой на З (у 2 курганах на У) у насыпе і на гарызонце, некаторыя на попельна-вугальнай падсыпцы, адно пахаванне ў яме. У адным кургане пахавальны абрад — трупаспаленне.




Шпора (1), нож (2), фібула (3), праслі-цы (4, 5), пацеркі (6, 7), крэсіва (8), спражка (9), бронзавая падвеска (10), сярэбранае кольца (11) з курганнага могільніка **Ратайчыцы**.



Гаршчок з курганнага могільніка **Ратайчыцы.**

Знойдзены ганчарныя гаршкі (рыфленыя, з адагнутым венцам, паясамі косых насечак), фрагменты керамікі, нажы, цвікі, крэсівы, 3 жал. абручы і дужкі ад драўлянага вядра, шпора, прасліцы з ружовага і шэрага сланцу, скроневыя кольцы, бронзавыя зярнёныя каралі, сярэбраныя пярсцёнкі, бронзавы званочак, шкляныя залачоныя, пасярэбраныя пацеркі, ракавінка каўры. Датуецца 10—12 ст.

*Літ.:* 132, 637, 641. *Т. М. Каробушкіна.*

**РА́ЎДЗІНА** Тамара Уладзіміраўна (21.4.1919, г. Дзвінск, цяпер Даўгаўпілс, Латвія — 4.3.1991), савецкі археолаг. Канд. гіст. навук (1975). Скончыла Маскоўскі ун-т (1946). У 1940—41 навук. супрацоўнік Маскоўскага дзярж. гіст. музея, у 1945—47 навукова-тэхнічны супрацоўнік Харэзмскай археал. экспедыцыі Ін-та этнаграфіі АН СССР. З 1949 навук. супрацоўнік Ін-та археалогіі АН СССР. Асн. кірунак даследаванняў — датаванне стараж.-рус. рэчаў. Даследавала стараж. Бранск (1970—71, 1978), Маскву, Ноўгарад, Ноўгарад-Северскі, Старую Русу, Суздаль, Чарнігаў і інш., Браслаў (1956), Друцк (1958), Мінск (1957), Мсціслаў (1967), Пінск (1955, 1957), курганы вяцічаў. Аўтар арт. «Надпіс на карчазе з Пінска» (1957), «Паліўныя керамічныя пліткі з Пінска» (1963), «Раскопкі ў Пінску» (1966).

*Тв.:* Погребения X—XI вв. с монетами на территории Древней Руси: Кат. М., 1988; О находках монет из Вотни (Верхний Днепр) (разам з У. У. Багамольнікавым) // Сов. археология. 1979. № 2. *У. У. Багамольнікаў.*

**РАЦЮ́НКІ,** гарадзішча *штрыхаванай керамікі культуры* і часоў Кіеўскай Русі каля в. Рацюнкі Браслаўскага р-на. На Пд ускраіне вёскі, на ўзгорку каля дарогі ў в. Літоўшчына. Пляцоўка круглая, дыям. 45 м. Выявіў у 1895 Ф. В. Пакроўскі, абследаваў у 1956 Л. В. Аляксееў, даследавала 252 м² у 1978, 1979, 1981 Л. У. Дучыц. Культурны пласт 0,5 м. Выяўлены рэшткі драўлянай сцяны, якой было ўмацавана паселішча, рэшткі вял. жытлаў слупавой канструкцыі.

Знойдзены клінападобныя сякеры, таўкачы, асялкі (тачыльныя брускі) з каменю, вырабы з косці (долатцы, шпількі, праколкі, утульчаты наканечнік кап'я, гузік, 2 шпількі, упрыгожаныя арнаментам і нарэзкамі, па форме аналагічныя бронзавым шпількам 8—7 ст. да н. э., абломак косці са стылізаванымі выявамі чалавека на адным баку і конніка на другім), фрагменты штрыхаваных пасудзін, формай падобных на посуд *мілаградскай культуры*, фрагменты керамікі з круглаватым пляскатым дном, рабрыстых і слоікавыя пасудзіны, керамічныя прасліцы для верацён. У верхнім гарызонце культурнага пласта знойдзены вырабы з жалеза (нажы, сярпы, шылы, іголкі, цыліндрычны замок, ключ, рыбалоўныя кручкі), бронзавае спіралепадобнае скроневае кальца

2 ст. да н. э., званочак 8—7 ст. да н. э., шпілька са спіралепадобнай раскаванай галоўкай, шарападобнае наверша булавы, 13 шыферных прасліц і 2 фрагменты шкляных бранзалетаў часоў Кіеўскай Русі, фрагменты ганчарнага посуду.

*Літ.:* 337, 341. *Л. У. Дучыц.*

**РОД,** калектыў кроўных родзічаў; асн. сацыяльна-эканам. ячэйка першабытнага грамадства. Вёў сваё паходжанне па адной лініі (па мацярынскай, пазней па бацькоўскай), члены роду ў большасці выпадкаў усведамлялі сябе патомкамі агульнага продка (рэальнага ці міфічнага) і мелі агульнае радавое імя (найчасцей ім была назва якой-небудзь жывёлы ці птушкі). Р. узнік на мяжы сярэдняга і верхняга палеаліту — прыкладна 40 тыс. г. таму назад (магчыма, раней). На Беларусі Р. існавалі амаль да канца жал. веку. Найважнейшыя рысы Р.: калектыўная (радавая) уласнасць на сродкі вытворчасці — зямлю і інш. маёмасць, сацыяльная роўнасць яго членаў, калектывізм у вытворчасці і ў спажыванні. Асн. пытанні грамадскага жыцця вырашаў сход дарослых членаў Р., што выбіраў радавога старэйшыну, улада якога грунтавалася на асабістым аўтарытэце. Важнейшай адзнакай Р. быў звычай экзагаміі — забарона заключэння шлюбу ўнутры Р., таму члены аднаго Р. былі звязаны шлюбнымі адносінамі з інш. Р., якія разам з ім складалі адно *племя*. Р. аднаго племені размаўлялі на адной мове, мелі адно племяннае імя. Група родзічаў складала ядро радавой абшчыны. Мікраячэйкамі радавой абшчыны былі парныя сем'і. Радавая арганізацыя ў сваім развіцці прайшла этапы раннерадавой абшчыны паляўнічых, рыбаловаў і збіральнікаў з прысвойваючай гаспадаркай (верхні палеаліт, мезаліт) і познарадавой абшчыны земляробаў і жывёлаводаў з вырабляючай гаспадаркай (неаліт). Знік Р. у выніку грамадскага падзелу працы, з'яўлення прыватнай уласнасці, маёмаснай і сацыяльнай дыферэнцыяцыі, узнікнення класаў і стварэння дзяржавы.

*А. М. Ваганава.*

**РО́МЕНСКА - БО́РШАЎСКАЯ КУЛЬТУ́РА,** археал. культура славянскіх плямён, якія ў канцы 1-га тысячагоддзя н. э. жылі на тэр. Украіны і Расіі (басейны рэк Дзясна, Сейм, Сула, Псёл, Ворскла). І. І. Ляпушкін датуе культуру 8—10 ст. н. э. Назву атрымала ад паселішчаў, знойдзеных каля г. Ромны Сумскай вобл. і с. Боршава Варонежскай вобл. Паходзіць, магчыма, ад пражскай культуры 5—7 ст. ці мясц. культуры 3-й чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. Насельніцтва займалася земляробствам, жывёлагадоўляй, рыбалоўствам, бортніцтвам, рамесніцтвам, жыло на гарадзішчах і селішчах. Іх жытлы — чатырохвугольныя аднакамерныя паўзямлянкі пл. 9—25 м², слупавой і зрубнай канструкцый, з глінабітнымі печамі. Пахавальны абрад — трупаспаленне; рэшткі крэмацыі змяшчаліся ў ляпных гаршках пад курганнымі насыпамі. Сустракаюцца і бескурганныя пахаванні. Пры раскопках знойдзена ляпная кераміка, арнаментаваная грабеньчатым штампам, насечкамі, наколамі, земляробчыя прылады працы, сякеры, косы, нажы; упрыгожанні — бронзавыя і сярэбраныя бранзалеты, шыйная грыўна, скроневыя кольцы, пярсцёнкі, пацеркі. На Пд і ПдУ Беларусі сустракаюцца помнікі канца 1-га тысячагоддзя н. э., падобныя да помнікаў Р.-Б. к. Гэта *Мазырскае гарадзішча «Кімбарайка»*, частка матэрыялаў гарадзішча і селішча *Чаплін*, селішча *Калочын*, селішча і курганны могільнік *Ходасавічы*, курганны могільнік *Вароніна*, частка матэрыялаў гарадзішчаў Чачэрск і Гомель, селішча Насовічы. Помнікі вывучаны недастаткова. Магчыма, культура гэтых помнікаў паўд. і паўд.-усх. Беларусі, блізкая да Р.-Б. к., звязана з летапіснымі радзімічамі і іншымі ўсх.-слав. плямёнамі перыяду ўтварэння Стараж.-рус. дзяржавы.

*Літ.:* 710, 1063, 1142.

*А. А. Макушнікаў.*

**РО́ШЧЫНА,** састаў для сувязі элементаў муроўкі і яе атынкоўкі. На Беларусі з 12 ст. выкарыстоўвалася вапнавая Р. Яна адрознівалася тлустасцю, саставам напаўняльніка, суадносінамі яго частак. Для каменнай муроўкі пры будаўніцтве замкаў Р. рабілася больш беднай (1:0,7:1,4), на дробназярністым пяску, для цаглянай муроўкі — больш тлустай (1:0,3:1,1), на буйназярністым або сярэднезярністым пяску. Для тлустай Р. стараж. пабудоў (1:0,3:4) характэрна дамешка здробненай цэглы напалам з пяском. З 16 ст. ў тагачаснай літаратуры рэкамендавалася рабіць Р. ў залежнасці ад саставу напаўняльніка (1:0,5 або 1:1), для 17 ст. (рэнесансныя помнікі) вызначалася залежнасць паміж модулем зярністасці напаўняльніка і яго колькасцю ў Р. (каэфіцыент карэляцыі прыблізна 0,7), састаў рэнесансавай Р. быў яшчэ больш бедны (дасягаў 1:2). З цягам часу збядненне Р. — агульная тэндэнцыя (каэфіцыент карэляцыі паміж часам пабудовы і доляй напаўняльніка ў Р. складае 0,7). Тыпы вапны (паветраная, слабагідраўлічная, маламагнезіяльная, магнезіяльная, даламітавая) залежаць ад месцазнаходжання радовішчаў сыравіны. У адпаведнасці з функцыянальным прызначэннем муроўкі састаў Р. мог мяняцца ў адным і тым жа будынку. Напр., рэшткі магілёўскіх пабудоў 18 ст. маюць Р. ў бутавых падмурках з прапорцыямі паміж вяжучым рэчывам і напаўняльнікам 1:0,7÷1, у муроўцы сутарэнняў — 1:0,5÷0,7, у муроўцы сцен — 1:1,5÷2. Для атынкоўкі фасадаў Р. рабілі ў прапорцыях 1:0,7÷1,8, часам з дабаўкамі фарбавальнікаў (попел, драўняны вугаль, кавальскі шлак, тоўчаная цэгла). Напр., Стары замак у Гродне пасля перабудовы ў канцы 16 ст. меў цёмна-шэры колер з-за дабавак у Р. попелу з дамешкамі драўнянага вугалю. На помніках ВКЛ вядома і сграфіта ў традыцыйнай еўрапейскай тэхніцы — выскрабанне верхняга слоя белай Р. да ніжняга слоя чорнай (з вугальным фарбавальнікам) Р. Для атынкоўкі інтэр'ераў выкарыстоўвалі часам і больш тлустую Р. — з прапорцыямі складальнікаў 1:0,5÷0,7, але звычайна тынкавальная Р. была больш бедная за муровачную. Для атынкоўкі пад размалёўку Р. рабілі амаль без напаўняльніка. Яе наносілі на папярэдні тоўсты слой беднай або сярэднятлустай Р. (1:0,7÷1,6) з дробным напаўняльнікам. У 17 ст. выкарыстоўваліся двухслаёвыя і трохслаёвыя грунтоўкі-атынкоўкі.

*Літ.:* 658, 659.

*І. Я. Раханскі, І. І. Сінчук.*

**РУБЕ́ЛЬ,** старажытнаруская плацежная і грашова-лікавая адзінка; манета Расіі, РСФСР, СССР. З 2-й пал. 18 ст. на тэр. Беларусі, Расіі і Украіны меў назвы рубель рублёвы, рубель цалковы, цалковы. 1) *Зліткі плацежныя* або *грыўня* (першы Р.) на тэр. Беларусі вядомы кіеўскага (11—13 ст.), наўгародскага і заходнярускага, або літоўскага (12—15 ст.), тыпаў. У пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца ў 13 ст. 2) Грашова-лікавая адзінка сумай у 200 *дзенег* (15—1-я трэць 16 ст.) або пазней — 100 *капеек*. На Беларусі з 1413 да пач. 16 ст. Р. адпавядаў 100 *грошам пражскім*, у 16—18 ст. — 100 *грошам літоўскім* або 125 *грошам польскім*. 3) Сярэбраная манета Расіі. Выпусціў Новы (Англійскі) дзенежны двор у 1654 перачаканкай *талераў* (гл. ў арт. *Перачаканка манет*). Номінал — **ро̆бль** (адзнакі двароў гл. ў арт. *Манетныя двары Расійскай дзяржавы*), з'яўляўся *манетай крэдытнай*, таму, што з намінальнай вартасцю ў 100 капеек меў рэальную вартасць у 64 капейкі. Зняты з абарачэння ў 1655. 4) Сярэбраная манета Расіі 1704—05 (*залатніковая проба* ≈ 84, лігатурная маса ≈ 28 г), 1707 (пробы ≈ 84 і 77, маса ≈ 28 г), 1710 (пробы ≈ 77 і 72, маса ≈ 27,50 г), 1712, 1714 (проба ≈ 58, маса ≈ 18,50 г), 1718—30 (проба 70, маса 28,44 г), 1731—61 (проба 77, маса 25,85 г), 1762—95, 1860 (проба 72, маса 24 г), 1796 (пробы 72 і 83 $^{1}/_{3}$, масы 24 і 29,25 г), 1797 (проба 83 $^{1}/_{3}$, маса 29,25 г), 1798—1805, 1807—59, 1861—85 (проба 83$^{1}/_{3}$, маса 20,73 г), 1886—1915 (проба 86 $^{2}/_{5}$, маса 20 г). Адзінкі наміналу — **манета добра**

цена рӧбль, россійскій рӧблевикъ, московскій рубль, монета новая цена рубль, монета рубль (18 ст.); монета рубль, монета цена рубль, рубль (19 ст.); рубль (20 ст.).

Выпускалі Кадашаўскі (1704—05, 1707, 1718—22), Красны (1719—20, 1722—30, 1741—58, 1762—70, 1775), Пецярбургскі (1724—27, 1738—1805, 1807—1915) манетныя двары Расійскай імперыі; *Варшаўскі манетны двор* (1843—47); без адзнак манетнага двара Р. 1704—05, 1707, 1710, 1712, 1714, 1725—27, 1730—40. У 1834, 1839, 1841, 1859, 1883, 1896, 1898, 1912—14 выпушчаны памятныя Р. (гл. ў арт. *Манеты мемарыяльныя Расійскай імперыі).*

5) Медная манета Расіі.

Выпускалі Екацярынбургскі (1725—26, *плата*, маса 1638,05 г; адзнака наміналу — **цена рубль**) і Сестрарэцкі (1770—71, плата, маса 1023,78 г; адзнака наміналу — **монета рубль**) манетныя двары.

6) Сярэбраная манета РСФСР. Адзнака наміналу — **рубль.** Гл. ў арт. *Манеты РСФСР.* 7) Сярэбра-




**Рубель.** Р а с і я: 1. Аляксей Міхайлавіч, 1654; 2—6. Пётр I, 1704, 1707, 1712, 1714, 1718.

ная і медна-нікелевая манеты СССР. Адзнака наміналу—**один рубль, рубль.** Гл ў арт. *Манеты СССР, Манеты мемарыяльныя СССР* (адзнакі двароў гл. ў арт. *Манетныя двары СССР*).

*Літ.:* 1615, 1620. *М. І. Смірноў.*

**РУБЕЛЬ,** група археал. помнікаў каля в. Рубель Столінскага р-на.

Селішча *зарубінецкай культуры.* За 3 км на Пн ад вёскі, абапал дарогі на Давыд-Гарадок, ва ўрочышчы Прысава. Пл. больш за 1 га. Выявіў і даследаваў у 1957 Ю. У. Кухарэнка (84 м²), у 1962 К. В. Каспарава. Культурны пласт 0,5 м. Выяўлены 4 буйныя ямы, 2 з якіх, магчыма, з'яўляюцца рэшткамі паўзямлянкавых жытлаў. Адна з ям, размешчаная ў паўд.-зах. куце раскопу, амаль прамавугольная ў плане (3×2 м, заглыблена на 0,4 м), без слядоў агнішча. У запаўненні катлавана выяўлена каля 20 фрагментаў



**Рубель.** Расія. 7. Пётр I, 1725; 8—9. Кацярына I, 1725, 1726; 10. Пётр II, 1729; 11—12. Ганна Іаанаўна. 1730, 1736.

ляпных пасудзін. У запаўненні другой ямы, блізкай да першай па памерах і форме, знойдзены фрагменты глянцаванага гаршка і грубаляпных пасудзін.

У культурным пласце селішча выяўлена вял. колькасць фрагментаў керамікі трох відаў: гаршкоў і місак з шурпатай паверхняй (54 %), частка гаршкоў арнаментавана па краі венчыкаў ці па плечуках пальцавымі ўціскannямі, наляпнымі валікамі, зашчыпамі па тулаве; місак, радзей гаршкоў з глянцаванай паверхняй (27 %); вял. таўстасценных гаршкоў з глянцаваным або загладжаным верхам і бугрыстым тулавам (19 %). Знойдзены таксама фрагмент крамянёвага серпападобнага нажа, кавалкі жал. шлаку. Датуецца 2 ст. да н. э.— 2 ст. н. э.



Могільнік зарубінецкай культуры. На паўн. ускраіне вёскі. Выявіў у 1953 І. Вабішэвіч, які знайшоў на глыб. 0,8 м цэлы гаршчок зарубінецкай культуры з загладжанай паверхняй і фрагменты яшчэ адной



**Рубель.** Расія. 13. Ганна Іаанаўна. 1738; 14. Іван Антонавіч, 1741; 15—20. Лізавета Пятроўна (18—20 — золата), 1754, 1757, 1758, 1756, 1756, 1757.

пасудзіны. У 1956 Кухарэнка даследаваў невял. ўчастак. Знойдзены адзінкавыя фрагменты зарубінецкай керамікі і кальцыніраваныя косці.

Курганны могільнік. На правым беразе р. Гарынь, на сучасных могілках. У групе больш за 30 паўсферычных здзірванелых насыпаў выш. да 1 м. У цэнтр. частцы адзін насып выш. каля 2,5 м, дыям. амаль 20 м. Курганы размешчаны блізка адзін ад аднаго, амаль усе пашкоджаны сучаснымі пахаваннямі. Выявіў у 1956 Кухарэнка. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* 637. *А. А. Егарэйчанка.*

**РУБЕ́ЛЬ РУБЛЁВЫ,** адна з назваў манеты наміналам у *рубель* на Беларусі ў 2-й пал. 18 ст. Гл. таксама *Манета цалковая.*

**РУБЕ́ЛЬ ЦАЛКО́ВЫ,** адна з назваў манеты наміналам у *рубель* у Расіі, на Беларусі і Украіне з 2-й пал. 18 ст. Гл. таксама *Манета цалковая.*

**РУБІ́ЛА,** прылада працы стараж. чалавека, якая выкарыстоўвалася ў эпоху ніжняга палеаліту (шэльская і ашэльская культуры). Выраблялася з каменю двухбаковай абіўкай. Мела міндале- або коп'епадобную, часам авальную форму. Адзін канец Р. быў завостраны з зігзагападобнымі лёзамі па баках, другі авальны, часта неапрацаваны. Памеры да 20 см. Р. ашэльскай эпохі былі менш масіўныя і больш вострыя. Падобнае на Р. вастрыё знойдзена на адным з самых стараж. паселішчаў на тэр. Беларусі — *Бердыжы.*

**РУДЗЯНЕ́Ц,** курганны могільнік каля в. Рудзянец Буда-Кашалёўскага р-на. 15 курганоў размяшчаліся на левым беразе р. Уза, ва ўрочышчы На курганах. Пры раскопках у канцы 19 ст. выяўлены пахаванні паводле абраду трупапалажэння, знойдзены вітая з дроту грыўня, бронзавыя завушніцы і бразготка. Датуецца канцом 10 — пач. 12 ст.

*Літ.:* 981.

**РУ́ДНЯ,** курганны могільнік крывічоў каля в. Рудня Полацкага р-на. За 1 км ад вёскі, ва ўрочышчы Валатоўкі, на зах. і ўсх. мысах берага р. Ушача. 96 насыпаў, захавалася каля 70 выш. 0,8—2,5 м, дыям. 6—10 м. Курганы круглыя, некаторыя падоўжаныя і чатырохвугольныя. Выявіў у 1867 А. М. Семянтоўскі, даследавалі ў 1928 А. М. Ляўданскі, у 1961 А. Р. Мітрафанаў, у 1967 Г. В. Штыхаў. Раскапаны 23 курганы.

Пахавальны абрад — трупаспаленне, у адным выпадку трупапалажэнне. Трупаспаленне адбывалася на месцы кургана і па-за курганам. Перапаленыя косці змяшчаліся пад курганам ці ў яго насыпе. У некаторых курганах было па некалькі пахаванняў. Знойдзены ляпныя гаршкі (некаторыя падпраўлены




**Рубель.** Расія. 21. Пётр III, 1762; 22—26. Кацярына II, 1763, 1768, 1791, 1779 (золата), 1771 (медзь); 27—28. Павел I, 1796, 1800; 29—30. Аляксандр I, 1803, 1806.

на ганчарным крузе), жал. нажы, шкляныя пацеркі, сярэбраныя шыйныя грыўні, бронзавыя спіралькі, пярсцёнкі, спражкі, бразготкі, гліняныя прасліцы, арнаментаваная выразаная з косці галоўка каня.

Датуецца 9—10 ст.
*Літ.:* 715, 848, 1075. *Г. В. Штыхаў.*

**РУДНЯ,** дробнае металургічнае прадпрыемства на Беларусі 14—18 ст. па вытворчасці жалеза. Першыя пісьмовыя звесткі пра Р. сустракаюцца ў грамаце Уладзіміра Альгердавіча ад 1390. Інтэнсіўна Р. будаваліся ў 16—17 ст. З 16 ст. многія Р. мелі сырадутныя печы, кавальскія горны, скураныя (часам драўляныя) мяхі, вялікія (да 100 кг) механічныя молаты, кавадлы, малаткі, клешчы, інш. абсталяванне, ямы для выпальвання вугалю. На тэр. Беларусі была густая сетка Р. Да сён-




**Рубель.** Расія. 31—32. Мікалай I, 1826, 1832; 33. Аляксандр II, 1867; 34—35. Аляксандр III, 1883, 1886; 36. Мікалай II, 1895. РСФСР; 37. 1921. СССР: 38. 1924; 39. 1979.

няшняга дня тэрмін «Р». ў сваіх назвах захавалі больш за 150 населеных пунктаў. Асабліва шырока вытворчасць жалеза была развіта на ПдУ Беларусі — на Гомельшчыне, Магілёўшчыне, Міншчыне.

*Літ.:* 102, 1240, 1475. *М. Ф. Гурын.*

**РУ́ДНЯ СПО́НІЦКАЯ,** стаянка эпох мезаліту і неаліту каля в. Рудня Споніцкая Веткаўскага р-на. За 300 м на ПнЗ ад вёскі, на левым беразе р. Сож і правым беразе р. Спонкі, ва ўрочышчы Laткі, на пясчаных узвышшах 1-й надпоплаўнай тэрасы. Адкрыў у 1923—25 А. В. Кротаў, абследавалі К. М. Палікарповіч, І. М. Ціханенкаў, У. Дз. Будзько, А. Г. Калечыц і інш.



Гаршкі 10—11 ст. з курганнага могільніка **Рудня** (Полацкі р-н).




Аўтар М.Ф.Гурын



Касцяная галоўка каня з курганнага могільніка **Рудня** (Полацкі р-н).

Большая частка знаходак — крамянёвыя наканечнікі стрэл (тронкавыя з апрацоўкай з брушка і пяра і без яе, пласціністыя з апрацоўкай з брушка), а таксама вуглавыя, бакавыя на вуглу зламанай пласціны разцы, канцавыя на кароткіх пласцінах і круглаватыя на дробных адшчэпах скрабкі, праколкі, свярдзёлкі, нажы на параўнальна невял. пласцінах, мікрапласціны і інш. Архаічны выгляд большасці знаходак дазваляе датаваць іх эпохай мезаліту. Фрагменты ляпнога посуду, упрыгожанага тыповым для верхнедняпроўскай культуры арнаментам (грабеньчатыя, ямкавыя і лапчастыя адбіткі), адносяцца да эпохі неаліту.

*Літ.:* 1183. *А. Г. Калечыц.*

**РУ́ДНЯ-ШЛЯ́ГІНА,** археал. помнікі каля в. Рудня-Шлягіна Веткаўскага р-на.

Паселішча-1 *верхнедняпроўскай культуры.* За 1,5 км на ПдЗ ад вёскі, на схіле пясчанага ўзгорка. Адкрыў у 1926, даследаваў у 1954 К. М. Палікарповіч, абследавала ў 1976 А. Г. Калечыц. Знойдзены крамянёвыя прылады працы, наканечнікі стрэл, скрабкі, нуклеусы і інш., ляпная кераміка, упрыгожаная грабеньчатым, ямкавым і лапчастым арнаментам. Датуецца 3-м тысячагоддзем да н. э.

Паселішча-2 верхнедняпроўскай культуры. За 2 км на Пд ад вёскі, ва ўрочышчы Страліца, пры ўпадзенні р. Шлягінка ў воз. Пяскова е, на невысокім прадаўгаватым узгорку. Адкрыў і даследаваў у 1926 Палікарповіч, даследавалі ў 1954 Палікарповіч і Я. Г. Краскоўская (Галанава), у 1963—65 І. І. Арцёменка і І. М. Цюрына. Ускрыта



Гаршчок з могільніка **Рудня-Шлягіна**.



Пасудзіна з могільніка **Рудня-Шлягіна**.

1846 $м^2$. Культурны пласт 0,3—0,4 м.

Знойдзена больш за 300 прылад працы (пераважаюць скрабкі, сякеры і цёслы невял. памераў, нажы, трохвугольныя наканечнікі стрэл, скоблі, праколкі, свярдзёлкі і інш.), некалькі тысяч адходаў крамянёвай вытворчасці, больш за 10 тыс. фрагментаў ляпнога посуду (неарнаментаванага, упрыгожанага грабеньчата-ямкавым арнаментам, адбіткамі лапчастага штампа, наколкамі вуглом адступаючай лапаткі).

Датуецца 3-м тыс. да н. э.

Могільнік *сярэднедняпроўскай культуры.* На паселішчы-2. Адкрыў у 1926 Палікарповіч, даследавалі ў 1954 Палікарповіч і Краскоўская (Галанава), у 1962—65 Арцёменка і Цюрына. Даследаваны 94 пахаванні. Пахавальны абрад — трупапаленне па-за межамі могільніка у ямах глыб. 0,3—0,8 м, у адной яме — трупапалажэнне.

Знойдзены крамянёвыя прылады працы, наканечнікі стрэл, нажы, сякеры, фрагменты посуду са шнуравым і наразным арнаментам, бурштынавыя ўпрыгожанні, вырабы з косці і металу.

Датуецца 2-м тыс. да н. э.

*Літ.:* 74, 79, 83, 863. *А. Г. Калечыц.*

**РУКАВІЦЫ,** адзенне для аховы рук ад холаду, а ў старажытнасці і частка адзення воіна. Плеценыя Р. 13 ст. знойдзены пры раскопках Бярэсця і Віцебска. Р. з Бярэсця (дзіцячая) трохвугольнай формы, памер прыкладна 12×20 см. Р. з Віцебска (мужчынская, левая) чатырохвугольнай формы, памер 14×24 см. Плецена з шарсцяных нітак светлашэрага колеру, таўшч. 1—1,5 мм, спрадзеных правай круткай і ссуканых левай круткай. Плеценыя Р. 13 ст. вядомы па раскопках у Рызе. Скураныя Р. 12—13 ст. знойдзены амаль ва ўсіх усх.-слав. гарадах, на Беларусі ў Бярэсці, Мінску, Слуцку, Полацку і Віцебску. Сшываліся з двух кавалкаў скуры таўшч. 2 мм вываратным швом. Палец прышываўся асобна. Іх памеры ад 8,8×10,4 см (у Мінску) да 13,5×21 см (у Віцебску). Скураныя Р. вядомы таксама па раскопках Ноўгарада.

*Літ.:* 385, 446, 485, 702, 1269, 1347. *Л. У. Калядзінскі.*

**РУКАЕМСТВА,** выплата доўгу рэальнай манетай, а не таварам. У бел. пісьмовых крыніцах тэрмін Р. зафіксаваны ў 1516. Гл. таксама *Гатавізна.*

**РУКАМЫЙ,** рукамыйнік, гаршчок з адным або двума насамі-злівамі рознай формы і сіметрычнымі ручкамі для падвешвання. Меў унутраную, а часам і знешнюю паліву. Быў пашыраны на Магілёўшчыне ў 17—18 ст. Гл. таксама *Насатка.*

**РУНЫ,** знакі стараж. германскага алфавіта, якія высякаліся на дрэве, косці, камені, метале. Узніклі ў 2—3 ст. н. э. У 2—7 ст. агульнагерманскі рунічны алфавіт налічваў 24 знакі. У выніку развіцця Р. з'явіліся мадыфікацыі алфавіта: англасаксонскі, скандынаўскі і інш. Р. і рунічныя надпісы высякалі як магічныя надпісы на памятных стэлах. Змест надпісаў складала магічная формула, імя ўладальніка рэчы ці імя чалавека, які зрабіў надпіс. Вядомы некалькі пергаментных рукапісаў 13—14 ст., напісаных рунічным пісьмом. Р. хутка былі выцеснены лацінскім алфавітам. Знаходкі з рунічнымі надпісамі вядомы ў Старой Ладазе і Ноўгарадзе (драўляны стрыжань, медная падвеска, косці свойскіх жывёл).




**Рукавіца** 13 ст. з Віцебска (унутраны і знешні бакі).

На Беларусі знаходкі з рунічнымі надпісамі ёсць у Полацку (ігральная косць) і на гарадзішчы *Маскавічы.* На полацкай знаходцы 4 знакі, якія чытаюцца як «выгода, перавага, дабро» і з'яўляюцца пажаданнем поспеху ўладальніку ігральнай косці. Маскавіцкія надпісы характэрны для скандынаўскага бытавога пісьма і ўяўляюць сабой дэградзіраванае пісьмо, навыкі якога былі страчаны яго носьбітамі. Носьбітамі ж гэтага пісьма маглі быць славянізаваныя скандынавы, воіны-наёмнікі, якія служылі ў дружыне полацкага князя, або купцы-скандынавы.

*Літ.:* 343, 767, 768. *Л. У. Дучыц.*

**РУСАКОВА,** стаянка каля в. Русакова Слонімскага р-на, за 1,5 км на Пн ад вёскі, на левабярэжнай надпоплаўнай дзюне р. Шчара, ва ўрочышчы Літоўскі Бераг. Выявіў у 1965 і даследаваў у 1966 В. Р. Супрун, у 1967, 1970, 1977 М. М. Чарняўскі (ускрыта 1024 $м^2$). Пл. 74×40 м. Культурны пласт таўшч. да 0,8 м. Выяўлены рэшткі агнішчаў, у т. л. выкладзеныя з камянёў, прылады працы і кераміка пераважна *нёманскай культуры:* трохвугольныя наканечнікі стрэл, лістападобныя наканечнікі дзідаў, разнастайныя скрабкі, разцы і інш.; кераміка дубічайскага тыпу — таўстасценная, з грабеньчатым і накольчатым арнаментам; познанеалітычная (дабраборская) кераміка; невял. колькасць сярэдненеалітычных (лысагорскіх) матэрыялаў. Да бронзавага веку адносяцца фрагменты пласкадонных гаршкоў са шнуравым, штампаваным і пракрэсленым арнаментам, а таксама крамянёвыя вырабы, каменныя шліфаваныя і свідраваныя сякеры. У культурным пласце знойдзены рэшткі пахаванняў з абрадам трупаспалення (бронзавы век), кароткая свідраваная сякера і гаршчок з наразным арнаментам. Дзюна была заселена і ў пазнейшы час. Сустракаюцца фрагменты керамікі і гліняныя прасліцы жал. веку, а таксама фрагменты ганчарнай керамікі і металічныя вырабы (наканечнік дзіды і інш.) познафеад. часу.

*Літ.:* 1140, 1289. *М. М. Чарняўскі.*

**РУСАКОВІЧЫ,** стаянка каменнага і бронзавага вякоў каля в. Русаковічы Стаўбцоўскага р-на.

Стаянка-1 эпохі неаліту. За 1 км на З ад вёскі, на дзюне левабярэжнага поплава Нёмана. Выш. над поплавам каля 4 м. Адкрыў і даследаваў у 1975 і 1986 М. М. Чарняўскі (ускрыта 216 $м^2$). Памер

90×80 м. Культурны пласт да 0,4 м. Знойдзены крамянёвыя прылады працы (скрабкі на адшчэпах і пласцінах, трохвугольныя наканечнікі стрэл, нажы, праколкі, рубячыя прылады, адна-пляцовачныя нуклеусы) і фрагменты вастрадонных гаршкоў з раслліннымі дамешкамі ў цесце, арнаментаваных пераважна грабеньчатымі адбіткамі ранняга (дубічайскага) этапу *нёманскай культуры*. Трапляюцца знаходкі *тшцінецкай культуры*.

Стаянка-4 эпохі мезаліту. За 300 м на Пн ад вёскі, за кар'ерам, на краі васьміметровай правабярэжнай тэрасы Нёмана. Выявіў у 1975 Чарняўскі. Памеры 200×50 м. Культурны пласт таўшч. да 0,4 м, верхняя частка яго пераворваецца. Знойдзены правільна агранёныя пласцінкі, канцавыя скрабкі, аднапляцовачныя нуклеусы.

Стаянка-7 эпохі неаліту і бронзавага веку. За 1,5 км на У ад вёскі, на пясчанай дзюне «У дубах». Выш. над левабярэжным поплавам Нёмана 2 м. Выявіў у 1975 і даследаваў 120 м$^2$ у 1976 Чарняўскі. Культурны пласт да 0,6 м. Знойдзены тыповыя для неаліту крамянёвыя прылады, кераміка ўсіх трох этапаў нёманскай культуры. Для пазнейшага (дабраборскага) этапу керамікі характэрны ўзоры з семечкавых адбіткаў.

Стаянка-8 эпохі неаліту. За 500 м на ПдЗ ад вёскі, на дзюне левабярэжжа Нёмана. Выявіў у 1975 Чарняўскі. Памер 80×90 м. Культурны пласт таўшч. да 0,4 м. Адносіцца да ранняга (дубічайскага) этапу нёманскай культуры.

Стаянка-9 эпохі неаліту і бронзавага веку. За 1,5 км на ПнУ ад вёскі, на правабярэжнай поплаўнай дзюне Нёмана. Мясц. назва Высокі груд. Выцягнута з Пн да Пд на 200 м. Выявіў і даследаваў 160 м$^2$ у 1976 Чарняўскі. Культурны пласт да 0,6 м. Выяўлены гасп. ямы, большасць з якіх бронзавага веку.

Сярод крамянёвых знаходак — трохвугольныя наканечнікі стрэл, лістападобныя наканечнікі дзідаў, вастрыё яніслвіцкага тыпу, скрабкі, пласціны з крутой рэтушшу, рубячыя і рэжучыя прылады, невялікія аднапляцовачныя нуклеусы. Кераміка прадстаўлена трыма этапамі нёманскай культуры. Для дубічайскага тыпу характэрны ўзоры з грабеньчатых адбіткаў, наколаў палачкай, адбіткаў канцом размачаленай палачкі, рамбічныя элементы з пракрэсленых рысак; кераміка лысагорскага тыпу аздоблена ямкавымі паглыбленнямі, наколамі, тарцовымі адбіткамі лапаткі, дабраборскага тыпу — насечкамі, лінейным штампам, пракрэсленымі рыскамі, адбіткамі тэкстылю. Кераміка бронзавага веку арнаментавана пераважна адбіткамі шнура і лінейнага штампа, баразёнкамі.

Датуецца 4—2-м тыс. да н. э.

*Літ.:* 1289. *М. М. Чарняўскі.*

**РУСА́НАВА** Ірына Пятроўна (н. 22.4.1929, Масква), савецкі археолаг. Д-р гіст. навук (1977). Скончыла Маскоўскі ун-т (1953). З 1953 працуе ў Ін-це археалогіі АН СССР. Вывучае гісторыю слав. старажытнасцей, матэрыяльную культуру славян 6—7 ст. Даследавала паселішчы і могільнікі на тэр. Беларусі (матэрыялы археал. комплексу *Хатомель*, атрыманыя пры яе ўдзеле, сталі эталоннымі пры датаванні знаходак з інш. аналагічных помнікаў). У 1966 адкрыла найб. ранні помнік усх. славян на Бел. Пабужжы — 2 паселішчы на левым беразе р. Лясная каля в. Скорбічы (Дружба) Брэсцкага р-на, гарадзішча і паселішча 8—10 ст. каля в. Бабка Ровенскай вобл., вяла раскопкі на курганным могільніку 9—10 ст. каля в. Радасць Камянецкага р-на.



І. П. **Русанава.**

*Тв.:* Курганы полян X—XII вв. М., 1966; Славянские памятники второй половины 1 тыс. н. э. на северо-западе Украины и юге Белоруссии // Древности Белоруссии. Мн., 1966; О керамике раннесредневековых памятников Верхнего и Среднего Поднепровья // Славяне и Русь. М., 1968; Славянские древности VI—IX вв. между Днепром и Западным Бугом. М., 1973; Славянские древности VI—VII вв. М., 1976.

*Т. М. Каробушкіна.*

**РЫБАКІ́,** стаянка эпохі мезаліту каля в. Рыбакі Мастоўскага р-на. За 1 км на Пд ад вёскі, на зах. беразе старыцы Нёмана, на пясчаным павышэнні краю поля. Выявіў у 1956 Л. С. Клейн, абследаваў у 1986 М. М. Чарняўскі. Памер 50×30 м, цэнтр. частка развеяна. Культурны пласт да 0,3 м. Знойдзены крамянёвыя ланцэтападобныя вастрыі, пласцінкі з прытупленай спінкай, трапецыі і інш. У сярэднявечны тут размяшчалася вёска, выяўлены рэшткі печаў-каменак, ганчарная кераміка.

**РЫБАКІ́,** курганны могільнік каля в. Рыбакі Ушацкага р-на. За 1,2 км на ПдУ ад вёскі, на беразе воз. Рыбакоўскае, у лесе. 136 курганоў выш. 1,5—4 м, дыям. 7—16 м, выцягнуты на 400 м уздоўж дарогі на в. Дарожкавічы. Выявіў у 1928 І. А. Сербаў, абследавалі ў 1951—52 І. С. Астапаў, у 1971 А. Г. Калечыц, у 1981 А. А. Егарэйчанка. У 1990 Л. У. Дучыц раскапала 7 курганоў. У 2 курганах выяўлены пахаванні па абраду трупаспалення на мацерыку, у адным — пахаванне па абраду трупапалажэння галавой на З, безінвентарнае. Пахавальны інвентар: фрагменты ляпной керамікі, падковападобная бронзавая фібула са спіралепадобнымі канцамі. У 4 курганах пахаванняў не выяўлена. У адным з іх знойдзены дзіцячы бранзалет з імітацыяй пляцення і з разамкнутымі канцамі, адзін з якіх зроблены ў выглядзе галавы змяі. Датуецца 9—11 ст. *Л. У. Дучыц.*



Б. А. **Рыбакоў.**

**РЫБАКО́Ў** Барыс Аляксандравіч [н. 21.5(3.6).1908, Масква], савецкі археолаг, гісторык. Акад. СССР (1958). Герой Сацыялістычнай Працы (1978). Чл. АН Чэха-Славакіі, Польшчы, Балгарыі, Венгрыі. Ганаровы д-р Ягелонскага ун-та ў Кракаве (1963), чл. выканкома Міжнар. саюза славістаў (з 1968). Скончыў 1-ы Маскоўскі ун-т (1930). З 1943 праф. Маскоўскага ун-та. З 1956 дырэктар Ін-та археалогіі, адначасова ў 1968—70 — Ін-та гісторыі АН СССР. Асн. працы прысвечаны сацыяльна-эканам. і палітычнай гісторыі ўсх. славян і Стараж. Русі, гісторыі стараж.-рус. рамяства і культуры, язычніцтва, метралогіі, храналогіі, летапісання і інш. Даследаваў стараж. Чарнігаў, Любеч, Тмутаракань і інш. Распрацаваў важную і складаную для гісторыі Беларусі тэму пра ўсх.-слав. племя *радзімічаў* (паходжанне, граніцы рассялення, пахавальны інвентар, этнавызначальныя жаночыя ўпрыгожанні, сацыяльна-палітычны лад, гаспадарка, мастацтва).

*Тв.:* Радзімічы // Працы секцыі археалогіі Ін-та гісторыі БАН. Мн., 1932. Т. 3; Ремесло древней Руси. М., 1948; Древняя Русь. Сказания. Былины. Летописи. М., 1963; Русские датированные надписи XI—XIV веков. М., 1964; «Слово о полку Игореве» и его современники. М., 1971; Русские летописцы и автор «Слова о полку Игореве». М., 1972; Язычество древних славян. М., 1981; Киевская Русь и русские княжества XII—XIII вв. М., 1982; Язычество Древней Руси. М., 1987.
*Літ.:* 42, 1395. *Т. М. Каробушкіна.*

**РЫБАЛОЎСТВА,** адна з старажытнейшых галін гаспадарчай дзейнасці чалавека, крыніца жывёльнага бялку і тэхнічнай сыравіны (рыбін клей, пухір, косці і інш.). У неаліце набыло найвялікшае значэнне для існавання першабытных плямён, забяспечвала сталае паступленне ежы. З развіццём земляробства і жывёлагадоўлі роля Р. ў гаспадарцы паступова памяншала. На тэр. Беларусі Р. вядома з эпохі палеаліту (*Бердыж* Чачэрскага р-на і тэр. сумежных раёнаў Бранскай вобл.). Стараж. чалавек паляваў на рыбу з дапамогай дзіды (кап'я), гарпуна, а таксама глушыў яе ў час нерасту, лавіў кошыкамі. Шчупакоў, стронгу і ласося здабывалі на жарліцу (двухбакова завостраны стрыжань) з прынадай. Вуды аснашчаліся востравугольным рыбалоўным кручком, суцэльным касцяным або з крамянёвым вастрыём. У мезаліце лавілі або білі рыбу з драўляных чаўноў, выкарыстоўвалі рыбалоўныя сеткі з кары лазы, з драўлянымі паплаўкамі і каменнымі грузіламі, трохзубыя восці, вершы, выгнутыя касцяныя рыбалоўныя кручкі, пра што сведчаць знаходкі на тарфянікавых паселішчах *маглемазе культуры* ў прыбярэжных раёнах Балтыйскага і Паўночнага мораў. Для здабычы рыбы карысталіся таксама лукамі і стрэламі. Асаблівага росквіту Р. дасягнула ў эпоху неаліту. У некаторых .месцах яно стала асноўным спосабам здабычы ежы, адцясніўшы на другі план паляванне і збіральніцтва, і ўпершыню дазволіла рэгулярна атрымліваць яе больш чым неабходна, у выніку чаго былі забяспечаны ўмовы для аселага спосабу жыцця. Адна з найбуйнейшых калекцый рыбалоўных кручкоў 4 тыпаў знойдзена пры даследаваннях стаянкі *Камень* Пінскага р-на, частка з іх ужо мела бародкі супраць сходу рыбы. На стаянках Літвы знойдзены шматкі рыбалоўных сетак разнастайных відаў пляцення. Рэчкі перагароджвалі плятнямі — закотамі (напр., р. Ясельду каля в. Тышкавічы Іванаўскага р-на), часта ў іх рабілася адтуліна для замацавання вяршы з лейкападобным вусцем. З часоў неаліту ў Еўропе вядомы разнастайныя прылады лоўлі рыбы і сеткі (невад, крыга, паплаў, буч, нерат, каробка, скрыпка, сак, таптуха, кломля, брадан, настаўка, хапун і інш.), кручковыя снасці (аблітня, дарожка), мадыфікацыя гарпуна — восці і інш., якія без істотных змен дайшлі да цяперашняга часу. Некаторыя з іх знойдзены пры раскопках на тарфянікавых і прыазёрных паселішчах (*Асавец* Сенненскага р-на, *Азярное* Любанскага р-на, Камень і інш.). Далейшае развіццё Р. і ўдасканаленне прылад лоўлі адбывалася ў бронзавым веку. Бронзавыя, а потым жал. рыбалоўныя кручкі розных памераў, шматзубыя восці, палепшанае вязанне сетак значна перауўзброілі першабытных рыбаловаў. У раннім жал. веку Р. канчаткова ператварылася ў пабочны занятак, на помніках амаль не трапляюцца рэшткі рыб. Плямёны *штрыхаванай керамікі культуры* лавілі рыбу сеткамі. На гарадзішчы *Малышкі* знойдзены пляскатыя гліняныя грузілы, аналагі якім вядомы толькі ў Літве. Некалькі жал. рыбалоўных кручкоў з шыпамі выяўлены на гарадзішчах *Аздзяцічы, Звязда, Палыкавічы*, блізкія па форме да сучасных — на гарадзішчах *днепра-дзвінскай культуры Загаваліна, Кастрыцы, Кублічы.* На селішчы *Некасецк* знойдзена блешня, на гарадзішчы *Хатомель* — некалькі жал. кручкоў і 4 экз. восцяў, на гарадзішчы *Калочын* — глінянае грузіла. У сярэдневяковых гарадах, асабліва ў Полацкай зямлі, да 13 ст. з'явіліся прафесійныя рыбакі. Прылады лоўлі шырока прадстаўлены ў археал. матэрыялах: у Полацку знойдзены невады, у Мінску, Полацку, Друцку, Віцебску — паплаўкі з кары для сетак, гліняныя грузілы, шмат жал. кручкоў. Пры раскопках Мінска і Полацка ў пластах 12—13 ст. выяўлены жал. блешні для лоўлі драпежнай рыбы. Рыбалоўныя кручкі часта трапляліся ў Давыд-Гарадку, Лагойску, Лукомлі, Пінску, Тураве, Турыйску і інш. Для лоўлі буйной рыбы прызначаліся колючыя прылады — аднazубыя і шматзубыя восці. Пры археал. раскопках рэшткі рыб звычайна трапляюцца каля агнішчаў, печаў і ў месцах, дзе гатавалі ежу, прычым, там утвараліся цэлыя напластаванні лускі. Рыбіны косці, луска і рыбалоўныя прылады сустракаюцца і ў стараж. пахаваннях. Вядомы таксама і амулеты з касцей рыб — прасвідраваныя пазванкі (гарадзішча *Маскавічы* Браслаўскага р-на). Тамсама знойдзена рабро буйной жывёлы, на якім прарысавана рыба і лодка. Паводле вызначэнняў, заснаваных на вывучэнні касцей і лускі з археал. раскопак, найб. пашыранымі відамі рыбы з'яўляліся шчупак, карась, лінь, плотка, лешч, судак, акунь, язь і інш., радзей здабывалі сцерлядзь і асятроў, практычна адсутнічаюць рэшткі вугроў. Да Р. традыцыйна адносяць здабычу ракаў, але з-за дрэннай захаванасці рэшткаў цяжка вызначыць іх ролю ў агульным аб'ёме промысла. Паводле сведчання дакументаў, іх лавілі на тэр. Беларусі паўсюдна мадыфікаванымі снасцямі і спец. ракоўнямі. Лоўля малюскаў для ўжывання іх у ежу спынілася з эпохі неаліту, аднак да позняга сярэднявечча захаваўся промысел двухстворкавых малюскаў як сыравіны для вытворчасці перламутравых вырабаў і здабычы жэмчугу (у рэках бас. Зах. Дзвіны).

*Літ.:* 23, 24, 151а, 350, 536, 1272.
*Н. П. Александровіч, У. Ф. Ісаенка.*

**РЫБКІ,** паселішча позняга бронзавага веку каля в. Рыбкі Мядзельскага р-на. За 100 м на Пд ад могілак, на першай надпоплаўнай тэрасе воз. Мядзел. Выявіў і даследаваў у 1979 Э. М. Зайкоўскі 40 м². Культурны пласт 0,2 м, пашкоджаны разворваннем.

Знойдзены крамянёвы паўкруглы скрабок на адшчэпе, абломак скрабка, апрацаваны на канцы і з бакоў, адшчэпы і дробныя асколкі крэменю, фрагменты слабаштрыхаванай керамікі з дамешкай пяску ў цесце.

Датуецца 2-м тыс. да н. э.

**РЫДЛЕЎКА,** прылада для капання зямлі, якая складаецца з шырокай лопасці і доўгага дзяржання. У сярэднявеччы Р. выраблялі з дрэва, толькі ніжняя рабочая частка лопасці мела жал. акоўку, што мацавалася да дрэва цвічкамі. Суцэльна металічныя Р. не знойдзены. Паводле пісьмовых крыніц, такія Р. існавалі ў 12—15 ст., але гэта былі прылады працы руднікаў, кавалёў. Жалезныя акоўкі Р. 15—17 ст. знойдзены ў Віцебску, Маладзечне, Мсціславе, Крычаве, Ляхавічах, Чачэрску.

*Літ.:* 665, 870, 1034, 1477.
*Г. М. Сагановіч.*

**РЫЕР** Якаў Рыгоравіч (н. 21.3.1947, Мінск), беларускі археолаг, гісторык. Скончыў Магілёўскі педагагічны ін-т (1969). Канд. гіст. навук (1980). Працаваў у Магілёўскім абл. краязнаўчым музеі (1969—75). З 1975 выкладчык Магілёўскага педагагічнага ін-та. Для «Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі» абследаваў археал. помнікі Магілёўскай вобл. Кіраваў раскопкамі паселішча і могільніка 10—16 ст. каля г. Чавусы (1975—81). Распрацоўвае праблему «Сярэдневяковая вёска Усходняй і Цэнтральнай Еўропы».

*Тв.:* Изучение курганов в Могилёвском Поднепровье // Сов. археология. 1976. № 2; Феодальное поселение X—XVI вв. у г. Чаусы в Могилёвском Поднепровье // Вопросы истории. Мн., 1981. Вып. 8; Некоторые вопросы развития феодальной деревни Могилёвского Поднепровья в X—XIV вв. // Древности Белоруссии и Литвы. Мн., 1982; Характер размещения сельского населения в Могилёвском Поднепровье в X—XIII вв. // Сов. археология. 1982. № 4; Природная среда и система сельского расселения в Восточной Белорус-

сии в X—XIII вв. // Методы естественных наук в археологии. М., 1987; Древнерусская деревня в археологических исследованиях // Труды V Междунар. конгресса археологов-славистов. Киев, 1988. Т. 2; Становление феодальных отношений у западных славян в свете археологических данных // Вопр. истории. 1988. № 10.

**РЫКСДААЛЬДЭР** (фламанд. rijksdaalder каралеўскі талер), назва разнавіднасці талернай манеты паўн. Нідэрландаў (Рэспублікі Злучаных Правінцый), чаканенай з 1605 (*метрычная проба* 856, *лігатурная маса* 25,68 г, пазней — проба 829, маса 24,89 г і проба 806, маса 24,18 г), з 1606 — палавінная фракцыя (паўрыксдаальдэр). Эмісія праводзілася ад імя правінцый і асобных гарадоў. На *аверсе* — пагрудная (управа) выява рыцара з мячом у правай руцэ і геральдычным шчытом з гербом на ім у левай; на *рэверсе* — увянчаны каронай геральдычны шчыт (французскай або іспанскай форм) з выявай ільва на задніх лапах, які крочыць улева; на адных манетах у правай лапе льва меч, у левай — пучок з 7 стрэл (сімвал адзінства паўночнанідэрландскіх правінцый), на другіх — леў без мяча і стрэл; легенды кругавыя.

**Правінцыяльная чаканка.** Вестфрызія: манетны двор Энкхюйзен (1607—16, 1618—19, 1629, 1649—55, 1675—76), манетны двор Горн (1619—25, 1635, 1644—46, 1662—68); без адзнак манетнага двара Р. 1627; манетны двор Медэмблік (1655—59, 1683—87). Фрызія: манетны двор Леўвардэн [1615, недатаваныя (паміж 1615 і 1627), 1629]. Гелдэрн: манетны двор Хардэрвійк (1606—21, 1649—62, 1668, 1674—76, 1699, паўрыксдаальдэр 1606—21). Галандыя: манетны двор Дордрэхт (1606—07, 1620—26, 1628—36, 1642—61, 1668—70, 1674—76, 1683—84, 1693, паўрыксдаальдэр 1620—26, 1628—35, 1642—48). Зеландыя: манетны двор Мідэлбург (1607, 1612—36, 1642—64, 1675—77, паўрыксдаальдэр 1612—30, 1650—60). Аверэйсел: манетныя двары Кампен (1606—07, 1616, 1626, 1668, 1675—80, 1688, 1699—1700), Дэвентэр (1620), Зволе (Р. і паўрыксдаальдэр 1639). Утрэхт: манетны двор Утрэхт [1605—08, 1610, 1612—13, 1617—27, недатаваныя (паміж 1628 і 1633), 1645—48, 1650—58, паўрыксдаальдэр 1606—08, 1610, 1612—13, 1618—22, недатаваныя (паміж 1628 і 1633)]. **Гарадская чаканка.** Аверэйсел: г. Зволе (1650, 1654—1656, 1668, 1676—77), г. Кампен (1668, 1676—77).

*Літ.:* 1579, 1648, 1710. *В. Н. Рабцэвіч.*

**РЫМАНЦЕНЕ** (Ябланскіцэ) Рымуце (н. 25.10.1920, Каунас), літоўскі археолаг. Д-р гіст. навук (1972). Скончыла Вільнюскі ун-т (1946), працавала выкладчыкам у Каўнаскім і Вільнюскім ун-тах, з 1960 навук. супрацоўнік Ін-та гісторыі АН Літвы. Даследуе каменны і бронзавы вякі Літвы і суседніх тэрыторый, у т. л. паўн.-зах. Беларусі, старажытнасці свідэрскай, яніславіцкай, нёманскай мезалітычнай і нёманскай неалітычнай, нарвенскай і шнуравой керамікі культур, у арэалы якіх уваходзіла і значная частка тэрыторыі Беларусі. Прымала ўдзел у падрыхтоўцы маладых спецыялістаў-археолагаў Беларусі. Аўтар каля 300 навук. прац, у т. л. манаграфій па каменным і бронзавым вяках.

*М. М. Чарняўскі.*

**РЫМШАНЦЫ**, курганны могільнік каля в. Рымшанцы Смаргонскага р-на. За 500 м ад вёскі, 200 м ад правага берага р. Вілія. Зараз не існуе. У 1895 Ф. В. Пакроўскі раскапаў 4 круглыя насыпы дыям. 8,6—14,2 м, выш. 0,9—1,0 м, абкладзеныя па баках камянямі. Раўкі не прасочваліся. На вяршынях былі паглыбленні. Пахавальны абрад — трупаспаленне па-за межамі кургана. Рэшткі спаленняў змешчаны ў неглыбокіх грунтавых ямах, прычым косці не ачышчаны, а перамяшаны з пяском і зямлёй. У 2 курганах на ўзроўні стараж. гарызонту глебы знойдзены косці няспаленых коней, якія, на думку даследчыка, змяшчаліся ў насыпах часткова (іншыя часткі спальваліся ў якасці ахвяры або ўжываліся ў час трызны). Пахавальны інвентар бедны: жал. спражка авальнай формы, чатырохгранны стрыжань, кавалкі аплаўленай бронзы, абломкі ліставой бронзы. Могільнік належаў балцкаму (усходнелітоўскаму) насельніцтву, датуецца 2-й пал. 1-га тысячагоддзя н. э.

*Літ.:* 914. *Я. Г. Звяруга.*



Я. Р. Рыер.



**Рынка** 17 ст. Мсціслаў.

**РЫНКА**, гліняная пасудзіна для смажання. Былі круглыя, плоскія, на трох ножках з полым дзяржаннем, у якое ўстаўлялася драўляная ручка, або мелі 2 вушкі. Назву атрымала ад стараж.-нямецкага Rinna (трохногі гліняны гаршчок, тыгель). На Беларусі першыя непаліваныя Р., вылепленыя на ручным ганчарным крузе, датуюцца 15 ст. (Лідскі, Крэўскі замкі, г. Мсціслаў). Ручка — полы ляпны цыліндр дыям. да 5 см. У 16—18 ст. Р. фармавалі на нажным коле, унутраную паверхню амаль заўсёды пакрывалі зялёнай ці карычневай палівай. Дзяржанне выраблялі з адным ці двума валікамі на канцы, ножкі ляпілі асобна. Р. мелі круглае (найчасцей) ці плоскае донца. Па памерах і форме вылучаюць 2 разнавіднасці Р.: плыткія (глыб. 3—6 см з дыям. вянца 16—21 см і полым дзяржаннем) і глыбокія (глыб. 10—13 см, дыям. да 34 см, ножкі выш. да 10 см з дзвюма петлепадобнымі ручкамі). Апошнія фармаваліся на аснове макотры. Глыбокія Р. 2-й пал. 17 ст. вядомы з раскопак Мірскага, Гальшанскага замкаў, г. Мсціслаў. Плыткія Р. часам упрыгожвалі штампаваным сеткаватым арнаментам ці з дапамогай шматраднага грабеньчыка. На Р. з Лідскага замка абавязкова ёсць адбітак пальца майстра. Са з'яўленнем фаерачных печаў вытворчасць Р. паступова заняпала, замест іх паявіліся *патэльні* з плоскім донцам без ножак. Аднак на зах. рэспублікі (Поразава) Р. рабілі да пач. 20 ст.

*Н. І. Здановіч, А. А. Трусаў.*

**РЫЧОЎ**, археал. помнікі каля в. Рычоў Жыткавіцкага р-на.

Курганны могільнік дрыгавічоў. На паўн. ускраіне вёскі. Больш за 200 курганоў, захавалася 40 выш. 1—1,5 м, дыям. 9—15 м. Даследавалі ў канцы 19 ст. У. З. Завітневіч 10 курганоў, у 1927 А. Дз. Каваленя і С. А. Дубінскі 3 курганы, у 1950-я г. Л. А. Міхайлоўскі 1 курган, у 1961 В. В. Сядоў і П. Ф. Лысенка 2 курганы, абследаваў у 1974 Л. Д. Побаль. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на грунце, зрэдку ў насыпе, галавою на З, знойдзены рэшткі трупаспалення. Пахавальны інвентар: ганчарны посуд, сердалікавыя і зярнёныя пацеркі. Датуецца 10—13 ст. і больш раннім часам.

Селішча. За 900 м на Пн ад вёскі, паміж в. Рычоў і Буйразь, ва ўрочышчы Першая горка (Горліца, ці Гарадзішча). Выш. над поплавам 2 м. Пл. каля 1,9 га. Абследавалі ў 1928 Каваленя і С. С. Шутаў, у 1961 і 1974 Побаль. Знойдзены рэшткі ляпной керамікі ранняга жал. веку і ганчарнай керамікі раннефеад. часу.

*Літ.:* 380, 472, 899. *Л. Д. Побаль.*

**РЭА́ЛЬНАЯ ВА́РТАСЦЬ** манеты, вартасць, якая вызначаецца ўтрыманнем у манеце грашовага металу і, як правіла, выдаткаў на яе вытворчасць. Да Р. в. не адносяцца даходы *манетнай рэгаліі*. Р. в. можа не супадаць з *намінальнай вартасцю* манеты і можа залежыць ад суадносін коштаў металаў (рацыа), калі *грашовая сістэма* выкарыстоўвае манеты з розных металаў.

**РЭ́ВЕРС** (франц. revers адваротны), адваротны бок манеты, медаля, банкноты, які нясе на сабе прыкметы, менш значныя за *аверс*.

**РЭ́ЙНСКІ ПО́СУД,** вырабы з моцна спечанай керамічнай масы, якая нагадвае камень, з бліскучай паліванай разнаколернай паверхняй і характэрным рэльефным дэкорам (выявы людзей, звяроў, раслінны арнамент, часам у спалучэнні з манаграмамі). Назва ад месца вытворчасці — у майстэрнях розных гарадоў на Рэйне (Германія). Вытворчасць Р. п. пачалася ў 13 ст., з 2-й пал. 15 ст. яго сталі пакрываць саляной глазурай. Вырабы розных гарадоў мелі свой колер і інш. адметныя рысы. У 15—18 ст. (асабліва ў 17) Р. п. вывозіўся ў Паўн. і Усх. Еўропу, у т. л. на Беларусь. Пры даследаванні Лідскага, Мірскага, Гальшанскага і Любчанскага замкаў, у гарадах Віцебск, Гродна, Магілёў, Мазыр і інш. знойдзены фрагменты Р. п. 16—19 ст.: цыліндрычныя куфлі (дыям. да 10 см, выш. 19—22 см), глякападобны посуд са злівам, упрыгожаным рэльефам, тарныя флягі з трыма парамі папярочных ручак і вузкім горлам, аптэчны посуд з клеймамі.

*Н. І. Здановіч. А. А. Трусаў.*

**РЭКАНСТРУ́КЦЫЯ** антрапалагічная, анатамічны метад пластычнай ці графічнай рэканструкцыі твару па чэрапе. Грунтуецца на распрацаванай у 19—20 ст. даследчыкамі (Р. Марцін, М. Грэгар, Г. фон Вірхаў, М. М. Герасімаў, Г. В. Лебядзінская і інш.) шкале суадносін рэльефу касцей чэрапа і мяккіх тканак твару з улікам полаўзроставых, расавых і індывідуальных асаблівасцей. Методыка Р. складаецца з шэрагу паслядоўных этапаў, якія ўключаюць антрапалагічны аналіз чэрапа (краніяметрычнае даследаванне, вызначэнне полу, узросту, расавых і морфафізіялагічных асаблівасцей); графічную рэканструкцыю фаса і профілю, пластычнае ўзнаўленне анатамічнай схемы галавы (мадэліраванне асн. мускулаў, вызначэнне таўшчыні мяккіх тканак на розных частках чэрапа, рэканструкцыя па схемах носа, вачэй і губ); стварэнне скульптурнага бюста-партрэта з улікам гіст. і этнаграфічных асаблівасцей касцюма, прычоскі, упрыгожанняў. Краніялагічны матэрыял для Р. збіраецца ў час археал. раскопак курганоў, могільнікаў, некропаляў, скляпоў. Найбольш цікавыя і характэрныя чарапы краніялагічных калекцый апрацоўваюцца паводле метаду Р. Скульптурныя партрэты стараж. продкаў людзей (пітэкантрапаў, *неандэртальцаў*), прадстаўнікоў розных археал. культур, гіст. асоб зроблены ў ЗША, Францыі, Англіі, Германіі, Чэха-Славакіі, Балгарыі і інш. У СССР методыку пластычнай рэканструкцыі распрацаваў і ўвёў у практыку Герасімаў, які разам з вучнямі стварыў галерэю скульптурных партрэтаў гіст. асоб: Яраслава Мудрага, Андрэя Багалюбскага, Усевалада Вялікае Гняздо, Івана Грознага, Улугбека, Цімура, Рудакі і інш. На Беларусі паводле метаду Р. на мясцовых антрапалагічных матэрыялах, сабраных у выніку археал. раскопак, І. У. Чаквіным разам са скульптарам Л. П. Яшэнкам зроблена каля 20 рэканструкцый скульптурных бюстаў-партрэтаў, у т. л. чалавека эпохі бронзы, прадстаўнікоў розных груп стараж. насельніцтва 10—13 ст. і 16—18 ст.— *крывічоў, палачан, радзімічаў, дрыгавічоў, яцвягаў*, усх. балтаў, жыхароў Навагрудка, Слоніма, Полацка і інш. гарадоў.

*Літ.:* 226, 227, 1279. *І. У. Чаквін.*



Фрагмент **рэйнскага посуду** 16 ст. з Мірскага замка.

**РЭКАНСТРУ́КЦЫЯ** археалагічная, славеснае або графічнае аднаўленне першапачатковага аблічча рэчы, аб'екта або светапогляду стараж. людзей па рэштках матэрыяльнай культуры. Як правіла, у ходзе раскопак археолаг сутыкаецца з рэшткамі вырабаў (прылады працы, зброя, посуд, упрыгожанні), збудаваннямі жылога, гасп.-эканам. і культавага прызначэння (горны, майстэрні, гасп. пабудовы, цэрквы і свяцілішчы). Выкарыстоўваючы адпаведныя метады, можна аднавіць першапачатковае аблічча прадмета ці аб'екта. Раскопкі могільнікаў дазваляюць у агульных рысах скласці ўяўленне пра рэлігійныя і пахавальныя абрады стараж. людзей, аднавіць касцюм пахаванага або яго дэталі. Буйныя рэшткі гліг нянага посуду даюць магчымасць зрабіць частковую ці поўную яе Р. Фіксацыя ям ад слупоў вакол жытла або гасп. збудавання сведчыць пра слупавую канструкцыю сцен, а іх адсутнасць — пра зрубную. Складаней з'яўляецца Р. каменных збудаванняў грамадзянскага або культавага прызначэння. Такая Р. патрабуе дакладнай фіксацыі і прамераў падмурка, ведання архіт. стыляў, тэхнікі будаўніцтва, падліку будаўнічых, архітэктурных дэталей і матэрыялу і інш.

*А. А. Егарэйчанка.*

**РЭКО́РД,** стаянка *грэнскай культуры* каля в. Рэкорд Лоеўскага р-на. За 500 м на У ад вёскі, на 2-й надпоплаўнай тэрасе правага берага Дняпра, на беразе стараж. вадаёма (зараз балота). Пл. 600 м². Выявіў і даследаваў у 1978 М. І. Лашанкоў, у 1979 шурфоўку рабіў У. П. Ксяндзоў. Культурны пласт мезалітычнага часу разбураны ветравой эрозіяй, другасным засяленнем тэрыторыі ў раннім жал. веку, рэшткі захаваліся на глыб. 0,5—0,7 м. Знойдзены наканечнікі стрэл, скрабок, праколка, ланцэтападобнае вастрыё, пласціны і адшчэпы з затупленым краем, трапецыі, пласціністыя ўкладышы, скоблі, нуклеусы. Прылады працы зроблены з «сожскага» крэйдавага крэменю і дробназярністага кварцыту малінавага колеру. Адносіцца да позняга мезаліту, датуецца 6—5-м тысячагоддзямі да н. э.

*Літ.:* 618, 119. *У. П. Ксяндзоў.*

**РЭКУПЕРА́ЦЫЯ** (ад лац. recuperatio зваротнае атрыманне) у археалогіі, вяртанне рэчы, якая спрацавана, зламана або сапсавана, яе ранейшых або новых функцый. Вядома з часоў палеаліту. Папярочным сколам «ажыўлялі» лязо крамянёвай прылады, сякеры; кавалак зламанай свідраванай сякеры нанова свідравалі і насаджвалі на дзяржанне; з абломка крамянёвага сярпа рабілі наканечнік дзіды. З абломкаў посуду атрымоўвалі шамот для глінянага цеста. З-за вял. каштоўнасці бронзы абломкі вырабаў з яе пераплаўлялі на новыя рэчы. У выніку Р. атрымлівалася функцыянальна новая рэч або выраб, не падобны на стары, звыклы па знешнім выглядзе.

*У. Ф. Ісаенка.*

**РЭМЕ́ДЫУМ** (ад лац. remedium сродак), дапушчальнае адхіленне *пробы* або масы (вагі) манет ад прадугледжанай законам. Р. у масе адзінкавай манеты абмяжоўваў размах варыяцыі масы, у масе групы манет задаваў магчымыя адхіленні ад ідэальнай масы адзінкавай манеты, характарызаваў размеркаванне сярэдняй велічыні.

Р. у масе вядомы з 18 ст. Раней за сярэдняй вагой манет нагляд ажыццяўлялі дзярж. чыноўнікі, занатоўвалі лішкі, якія атрымліваліся ў выніку адхілення ад манетнай *стапы* («zbysz» або «przybysz» на манетных дварах Рэчы Пас-

палітай, «прыделанные деньги» на Расійскіх манетных дварах), абавязвалі персанал двара аплаціць страты пры перавышэнні сярэдняй вагі, што і выклікала адхіленне яе пры вырабе ад устаўнай у бок паніжэння. У 19 ст. ў Расіі ў вазе залатых манет Р. быў у ±5÷8,5 тысячных вагі кружка, сярэбраных банкаўскіх ±6,4÷17,1 тысячных вагі кружка, сярэбраных разменных манет ±37÷75 тысячных вагі кружка. Немагчымасць атрымаць аднародны сплаў вымушала ўвесці Р. і ў пробе. У 18—19 ст. у краінах Еўропы прыняты Р. для залатых манет *метрычнай пробы* 900—986±1,5÷2,0 праміле, для серабра пробы 900±2,2÷3,0 праміле. З 1885 устаноўлены Р. у пробе расійскіх залатых манет у ±1,0 праміле, сярэбраных банкаўскіх ± 2,0 праміле, сярэбраных разменных ± 5,0 праміле.

*Літ.:* 1528. *І. І. Сінчук.*

**РЭСТАЎРА́ЦЫЯ АРХЕАЛАГІ́ЧНЫХ ЗНАХО́ДАК,** аднаўленне першапачатковага (або блізкага да яго) выгляду стараж. рэчаў. Разам з *кансервацыяй* археалагічных рэчаў дазваляе захаваць знаходкі ад разбурэння. Першапачатковую рэстаўрацыю праводзяць у палявой лабараторыі, канчатковую — у стацыянарных лабараторыях пры навукова-даследчых установах, музеях. У Р. а. з. шырока выкарыстоўваюцца дасягненні хіміі, біялогіі, оптыкі і інш.

Рэстаўрацыя вырабаў з дрэва. Дрэва ў культурным пласце захоўваецца ва ўмовах вял. вільготнасці або сухасці (апошняя на Беларусі не сустракаецца). Асабліва моцна ўвільгатняюцца мяккія лісцевыя пароды (ліпа, асіна і інш.). Вынятая з глебы знаходка хутка высыхае. Пры гэтым верхнія слаі абязводжваюцца і памяншаюцца ў аб'ёме значна хутчэй за ўнутраныя, што вядзе да дэфармацыі і растрэсквання. Каб пазбегнуць гэтага, рэчы пасля прамыўкі і ачысткі сушаць ва ўмовах, калі выпарэнне адбываецца раўнамерна па ўсёй таўшчыні. Ужываецца пакрыццё драўляных рэчаў 5%-ным растворам полівінілбутыралю. Ён утварае на паверхні рэчы тонкую плёнку, што абараняе яе ад хуткага высыхання. Плоскія рэчы сушаць заціснуўшы паміж 2 дошкамі ці ў інш. фіксаваным становішчы. Для склейвання дрэва прыдатны полівінілацэтатная смала, клеі БФ-2, БФ-4, БФ-6, «Фенікс» і інш. Гл. таксама арт. *Кансервацыя драўніны.*

Рэстаўрацыя вырабаў з косці. Вырабы з косці ў асн. захоўваюцца добра, тады іх дастаткова прамыць і прасушыць. Часам касцявы матэрыял бывае пакрыты слоем вапны. Каб яго выдаліць, ужываюць раствор салянай ці мурашынай кіслаты. Пасля апрацоўкі рэшткі кіслаты з паверхні вырабу выдаляюць 1%-ным растворам соды, пасля чаго рэч прасушваюць, загарнуўшы ў паперу. Порыстыя і крохкія вырабы замацоўваюць растворамі сінтэтычных смол: 2%-ным растворам полівінілбутыралю, полівінілацэтатнай смалы ці 5%-ным растворам клею БФ-4 у спірце. Для механічнай трываласці і паляпшэння знешняга выгляду вырабу, дэталі, якіх не хапае, замяняюць масцікай з воску і каніфолі (1 : 1).

Рэстаўрацыя вырабаў з



Этапы рэканструкцыі антрапалагічнай.

м е т а л а ў. Найчасцей выкарыстоўваюць метады механічнай, хімічнай і электрахімічнай апрацоўкі. Пры механічнай апрацоўцы (калі рэч добра захавалася) карыстаюцца нажамі, цвёрдымі шчоткамі, наждачнай паперай. Для ачысткі вырабаў, пакрытых тоўстым слоем вокіслаў, больш прыдатны хімічны і электрахімічны спосабы. Пры хімічнай ачыстцы рэчы апрацоўваюць кіслатой (сернай, салянай) з дабаўленнем інгібітараў — рэчываў, якія запавольваюць працэс разбурэння металу (уратрапін). Пры гэтым на паверхні ўтвараецца тонкая адсарбцыйная плёнка, што выключае ўзаемадзеянне металу з кіслым асяроддзем. Хімічны спосаб можна выкарыстоўваць для ачысткі рэчаў, у якіх добра захаваўся металічны асяродак. Чым мацней з'едзена каразіяй рэч, тым больш павінна быць кіслаты ў растворы. Для стараж. жалеза, пакрытага тонкім слоем вокіслаў, бяруць 1 частку канцэнтраванай салянай кіслаты на 3—4 часткі вады ці 1 частку канцэнтраванай сернай кіслаты на 6—7 частак вады (кіслату ўліваюць у ваду, а не наадварот). У атрыманы раствор уводзяць 1 % інгібітара (10 г уратрапіну на 1 л раствору). Для апрацоўкі рэч на 30—40 мін кладуць у эмаліраваны посуд і заліваюць кіслатой з інгібітарам, потым вымаюць пінцэтам і прамываюць, прачышчаюць цвёрдай шчоткай. Пры неабходнасці аперацыю паўтараюць. Пасля ачысткі рэчы некалькі разоў прамываюць у цёплай вадзе з содай (10 г соды на 1 л вады). Добра ачышчаныя рэчы набываюць металічны бляск. Пры электрахімічнай апрацоўцы ў эмаліраваную ёмістасць насыпаюць пласт грануляванага цынку, на ім размяшчаюць рэчы, якія цалкам засыпаюць цынкавымі зернямі. У посуд заліваюць электраліт — 10—15%-ны раствор едкага натра (або едкага калію), каб ён на 3—4 см быў вышэй за ўзровень цынку. Пры гэтым у электраліце пачынаецца ўзаемадзеянне 2 металаў, што вядзе да ўзнікнення электрычнага току. Пад яго ўздзеяннем адбываецца разлажэнне вады. На катодзе (рэч) выдзяляецца вадарод, які аднаўляе вокіслы да металічнага жалеза, на анодзе (зерні цынку) — кісларод, які злучаецца з цынкам і ўтварае яго вокіс. Пры хатняй тэмпературы працэс цягнецца 18—24 гадз (пры награванні тэрмін скарачаецца). Пасля апрацоўкі рэчы прамываюць у праточнай вадзе. Адмяклыя вокіслы выдаляюцца скальпелем. Пры неабходнасці працэс паўтараюць. Пасля ачысткі рэчы падвяргаюць кансервацыі. Гэтыя спосабы выкарыстоўваюць і пры апрацоўцы вырабаў з бронзы. Пры хімічнай ачыстцы вокіслы раствараюць кіслотамі або шчолачамі. Выкарыстоўваюцца як мінеральныя (серная), так і арганічныя (воцатная, мурашыная) кіслоты. Для электрахімічнай ачысткі бронзы выкарыстоўваюць 10%-ны раствор едкага натра.

Р э с т а ў р а ц ы я в ы р а б а ў с а с к у р ы. Выраб чысцяць ад бруду, прамываюць у цёплай вадзе з дабаўленнем гліцэрыны і тымолу (гліцэрына надае эластычнасць, тымол — антысептык, засцерагае ад мікраарганізмаў). Потым сушаць пры пакаёвай тэмпературы. Перад прасушкай выраб распраўляюць і замацоўваюць шпількамі або змяшчаюць паміж 2 дошкамі, на якія кладуць груз. Эластычнасць скуры аднаўляецца прамочваннем яе рыцынай або рыбіным тлушчам. Прапітка робіцца, калі скура яшчэ не зусім прасохла, у некалькі прыёмаў да поўнага насычэння яе тлушчам. Потым выраб прасушваюць. Асобныя дэталі вырабу сшываюцца (па старых швах), пры неабходнасці пракладваецца тканіна. Часта скура знаходзіцца ў амаль струхлелым стане. Тады выраб трэба замацаваць 2%-ным растворам полівінілбутыралю ў этылавым спірце.

Р э с т а ў р а ц ы я в ы р а б а ў с а ш к л а. Археал. шкло бывае пакрыта тонкім белаватым ці вясёлкавым слоем. Такое змяненне шкла (ірызацыя) адбываецца ад таго, што за час доўгага знаходжання ў глебе яно пад уздзеяннем грунтавых вод губляе шчолач. На паверхні шкла з'яўляюцца выбоіны і ракавіны, адслойваюцца маленькія пласцінкі — шкло губляе празрыстасць. Каб яе аднавіць, шкло спачатку вытрымліваюць у 1%-ным растворы сернай або мурашынай кіслаты і прамываюць у праточнай вадзе. Асн. апрацоўка вядзецца пры дапамозе наждачнага парашку. Добрыя вынікі дае кіпячэнне рэчаў у дыстыляванай вадзе з дробным кварцавым пяском (не меней як $^1/_3$ аб'ёму посуду): пясчынкі б'юцца аб паверхню рэчы і адбіваюць рэшткі ірызаванага пласта. Выкарыстоўваюць таксама спосабы, заснаваныя на запаўненні пустот паміж пласцінкамі, якія аддзяліліся, празрыстымі рэчывамі — гліцэрынай, растворам празрыстых сінтэтычных смол. Для склейвання шкла выкарыстоўваюць празрыстыя клеі (напр., раствор полівінілацэтатнай смалы). Абломы злёгку апрацоўваюць наждаком. Пры рэстаўрацыі тонкага шкла ўздоўж шва можна наклеіць палоску празрыстай паперы альбо цэлафану. Гэта надае склейцы трываласць. Пасля рэстаўрацыі шкляныя вырабы пакрываюць растворам піхтавай смалы (у талуоле або ксілоле) ці празрыстым лакам. Для запаўнення адсутных частак ужываюць сінтэтычныя смолы, жэлаціну, празрыстыя клеі.

Р э с т а ў р а ц ы я к е р а м і ч н а г а п о с у д у. Чарапкі, як правіла, захоўваюцца добра. Іх пачатковая апрацоўка зводзіцца да прамыўкі і прасушкі. Ляпны посуд слабага абпалу бывае ломкім, лёгка крышыцца (асабліва ў вільготным стане), што патрабуе беражлівых да яго адносін. Пасля прасушкі на адкрытым паветры (лепш за ўсё, накрыць паперай) трываласць яго значна павялічваецца. Пры неабходнасці чарапкі замацоўваюць. Для гэтага ўжываюць спосабы паверхневага замацавання або прапітку замацоўваючымі растворамі (5%-ны раствор клею БФ-2, БФ-4, БФ-6 у эцілавым спірце). Ганчарны посуд такой апрацоўкі, як правіла, не патрабуе. Пры раскопках знаходзяць звычайна фрагменты посуду. Задача рэстаўратара — узнавіць посуд і не сказіць пры гэтым яго форму. У першую чаргу неабходна правільна вызначыць чарапкі для склейвання. Пасля прамыўкі і сушкі адбіраюць чарапкі венчыка, потым — дна. Пры падборы бакавых сценак трэба арыентавацца на арнамент, гарызантальныя палосы на ўнутранай паверхні пасудзіны і інш. Для склейвання выкарыстоўваюць лёгкараствальныя і тэрмапластычныя клеі на аснове сінтэтычных смол (у выпадку памылкі дастаткова прагрэць месца склейкі — і чарапкі лёгка разбіраюцца). Найбольш прыдатныя для склейвання керамікі полівінілацэтатная смала (10%-ны раствор у ацэтоне ці этылавым спірце), клеі БФ-2, БФ-4, БФ-6. Калі чарапкоў не хапае, пустоты запаўняюць гіпсам. На недастаючы ўчастак накладваюць пластылінавы лапік (унутры або звонку), пасля чаго ён запаўняецца гіпсавай кашай. Пасля зацвярдзення гіпсу пластылін здымаюць, загіпсаваны ўчастак зачышчаюць і таніруюць акварэльнай фарбай (тон афарбоўкі павінен некалькі адрозніваецца ад натуральнага). Калі ўдаецца сабраць толькі частку пасудзіны, застаецца магчымасць узнавіць яе цалкам. Для гэтага неабходна мець профіль пасудзіны — абрыс формы ад венчыка да дна (дастаткова ў выглядзе вузкай паласы). З пластыліну робіцца злепак профілю (унутры ці звонку). Паступова перамяшчаюць злепак па акружнасці пасудзіны, з гіпсу далепліваюць часткі, якіх не хапае. Аперацыю паўтараюць некалькі разоў, пасля чаго паверхню пасудзіны зачышчаюць і таніруюць. Арнамент на ўзноўленых частках рэчы не наносяць.

*Літ.:* 534, 1239. *А. М. Плавінскі.*

**РЭТРАСПЕКТЫЎНЫ МЕТАД** (лац. retrospectare глядзець назад, у мінулае) у а р х е а л о г і і, метад навук. даследавання, з дапамогай якога робяцца абагульненні, заключэнні, вывады пра мінулае, па-

пярэдняе, калі вядома наступнае, што прыйшло яму на змену. У археалогіі шырока выкарыстоўваецца для этнічных вызначэнняў. У добра вядомай культуры з дакладнай этнічнай атрыбутыкай вылучаюць элементы-перажыткі папярэдніх культур. Калі гэтай спадчыны дастаткова для сцвярджэння, што папярэдняя культура была асновай, на якой фарміравалася наступная, то абедзве культуры лічацца роднаснымі, генетычна звязанымі паміж сабой. У такім выпадку больш стараж. культура павінна мець такую ж этнічную прыналежнасць або належаць продкам таго ж этнасу. Напр., у складзе пражскай (тыпу Карчак) культуры (6—8 ст.) так многа элементаў сярэдневяковай культуры ўсх. славян, што яе слав. прыналежнасць лічыцца даказанай. У сваю чаргу больш ранняя кіеўская культура (3—5 ст.) настолькі блізкая да пражскай, што і яе можна аднесці да славянскай. У гэтым сэнсе Р. м. цесна спалучаецца з метадам вылучэння перажыткаў, які шырока выкарыстоўваюць у этнаграфіі. Паступова вывучаючы ўсё больш стараж. культуры, даследчык спрабуе пранікнуць у вытокі гісторыі этнасаў і іх культур. Аднак элементы папярэдняй культуры, што ўвайшлі ў наступную, цяжка адрозніць ад звычайных запазычанняў, прывазных рэчаў, дакладна высвятліць іх культурную прыналежнасць і дataванне. Да таго ж яны маглі з цягам часу змяніцца, мадыфікавацца, іх можа быць недастаткова для бясспрэчных вывадаў. Таму выкарыстанне Р. м. патрабуе распрацаванай *тыпалогіі*, наяўнасці дастатковай калекцыі рэчаў (гл. *Выбарачны метад*), выкарыстання *методыкі археалагічных даследаванняў*.

*Літ.:* 749. *У. Ф. Ісаенка.*

**РЭТУШО́ЎКА,** спосаб другаснай апрацоўкі каменных прылад шляхам зняцця з іх бакоў дробных *адшчэпаў* ці лускавінак. Пашыраны ў каменным і бронзавым вяках. Рабілі *адбойнікам* ці адціскальнікам з косці, дрэва, каменю. Р. завастралі рабочую частку прылады, фарміравалі прыстасаванне для рукі. У залежнасці ад тэхнічных прыёмаў нанясення рэтушы адрозніваюць Р. ўдарную, контрударную, адціскальную. Форма і суадносіны фасетак рэтушы вызначаюць яе тыпы — лускаватая, лускавата-ступеньчатая, паралельная, субпаралельная; у залежнасці ад вугла нахілу бывае пакатая, паўкруглая, крутая, вертыкальная, паводле арыентацыі — прамая, інверсійная, двухбаковая, па памерах — дробная, сярэдняя, буйная.

*Літ.:* 1073, 1177. *В. Я. Кудрашоў.*

**РЭ́ЧЫЦА,** горад, цэнтр Рэчыцкага р-на, порт на Дняпры. За 50 км на З ад Гомеля. Чыг. ст. на лініі Гомель — Калінкавічы, вузел аўтадарог на Гомель, Калінкавічы, Светлагорск, Жлобін, Лоеў, Хойнікі.

Гарадзішча стараж. Р. адносіцца да эпох ранняга жал. веку, Кіеўскай Русі і позняга сярэднявечча. Размяшчаецца на высокім правым беразе Дняпра каля сутокаў з ім р. Рэчыца. Гарадзішча мае авальную форму (75×53 м), выцягнута па лініі Пн — Пд, узвышаецца над узроўнем вады ў Дняпры на 14 м. З Пн і З яно аддзелена ад берагавога плато абарончым ровам шыр. 35—37 м і глыб. каля 9 м. Раней было абведзена па перыметры земляным валам, які захаваўся толькі з З, выш. да 3 м. Прарэзка вала, зробленая будаўнікамі для праходу на размешчаную ў б. рове танцпляцоўку, паказала, што ён насыпаны з гліны, пяску і жвіру, выш. каля 5 м і шыр. 10—12 м у аснове. Даследаваў у 1953 Э. А. Сымановіч. Культурны пласт моцна перамяшаны і бедны на знаходкі. Выяўлена ляпная кераміка мілаградскай і зарубінецкай культур, ганчарны посуд эпохі феадалізму. У 1976 пры зачыстцы абрыву ў паўн. частцы гарадзішча Г. В. Штыхаў выявіў культурны пласт таўшч. 1,6 м. На глыб. 1,2 м трапляецца ганчарная кераміка 13 ст., якая адпавядае часу ўпамінання Рэчыцы ў летапісах. У 1982 у ходзе назірання за земляными работамі на гарадзішчы М. А. Ткачоў вызначыў таўшч. культурнага пласта — 0,6—1,2 м. Унізе ён мае больш цёмны колер. На подступах да гарадзішча на дарозе сабрана кераміка 13—16 ст., фрагменты шкляных бранзалетаў і пацеркі, манеты 16—17 ст. У 1909 каля гарадзішча знойдзена медная візантыйская манета імператара Іаана Цымісхія (946 г.). На З ад гарадзішча паўкальцом размяшчаўся гандлёва-рамесны пасад, дзе ў траншэях зафіксаваны культурны пласт 0,6—1,4 м з матэрыяламі 13—18 ст.

Умацаванні Р. існавалі ў 12—18 ст. Размяшчаліся на высокім правым беразе Дняпра ў месцы ўпадзення ў яго р. Рэчыца. Умацаваны цэнтр стараж. і сярэдневяковай Р. («Старая крепость», «Замок») займаў гарадзішча пл. 0,25 га, якому надалі правільную авальную форму, абнеслі кальцавым валам і аддзялілі ад берагавога плато глыбокім дугападобным ровам. Пасад стараж. горада паўкальцом абкружаў умацаваны цэнтр і, верагодна, ужо ў 13 ст. меў уласную лінію ўмацаванняў. «Торжище» размяшчалася каля падножжа дзядзінца, побач з вусцем Рэчыцы. Да яго вялі рачная гандл. дарога і сухапутны шлях з левабярэжжа Дняпра, які спачатку заканчваўся паромнай пераправай, пазней — і наплаўным мостам.

У 1-й пал. 14 ст. Р., як і ўсе Бел. Палессе, увайшла ў склад ВКЛ. З апошняй чвэрці 15 ст. і да 1569 гэта тэрыторыя была зонай грабежніцкіх нападаў крымскіх татар. Пасля чарговага татарскага нашэсця ў 1529 дзяржаўца рэчыцкі Сямён Палазовіч прасіў у вял. князя ВКЛ і караля Польшчы Жыгімонта І Старога падтрымкі гораду, што толькі-толькі ўзнімаўся з папялішчаў. У грамаце ад 30.5.1529 кароль адзначаў заслугі дзяржаўцы, які «в той волости нашой Речыцкой своими немалыми наклады чынил и великою пильностью и нелитованьем горла своего на пустом месте на нас, господаря, замок збудовал и оборонами всякими за свои властныи пенязи тот замок наш вспомог, и который люди, подданные наши та-




Адціскальная **рэтушоўка** (1) і мікрарэтушоўка (2).



Металічны абразок 12 ст. **Рэчыца.**

мошнии, для великого нагобанья от неприятелей наших Москвич и Татар и Турков розышлись были розно прочь, он тых подданных наших собрал и место под тым замком и волость нашу осадил». Граматай караля ўсе прыбыткі з Рэчыцкай мытніцы, корчмаў мядовых, піўных і вінных накіроўваліся на рамонт і будаўніцтва замка. Мяшчане і валашчане абавязваліся даваць на замак па 6 сторажаў, дастаўляць дровы і «будованье замковые и хоромы в замку и перед замком, коли потреба вкажеть, мають они то вси все будовати без вымовы с росказаньем державцовым». У жніўні 1561 у час надання Р. новых вольнасцей вял. князь ВКЛ і кароль Польшчы Жыгімонт II Аўгуст вызваліў яе мяшчан «от работ замков украинных», пакінуўшы за імі «замок свой Речицкий и теж острог около места и перекопы по давному поспол з волощаны робити». У наданні канкрэтна гаворыцца пра ўмацаванні «места», упамінаецца абавязак мяшчан даваць «по 1 человеку сторожей до брам местских». Брамы гэтыя не названы, аднак, паводле іншых гіст. крыніц, гэта Чарнігаўская і Мінская брамы, якія былі тут і ў наступныя гады. У выніку ваенных падзей 16 ст., асабліва Лівонскай вайны 1558—83, рэчыцкія ўмацаванні, відаць, былі знішчаны. У 1593 рэчыцкі староста М. Буйвід мусіў закласці 3 свае сялы з фальваркамі за 1 тыс. коп грошаў і пусціць гэту суму «на поправу замку Его королевской милости Речицы, которой моцно опал». Будаўнічыя работы, верагодна, былі праведзены паспяхова, таму што ў пач. 17 ст. польскі гісторык А. Гваньіні адзначаў наяўнасць у Р. «замка и места». У 1648 горадам авалодалі паўстаўшыя ўкр. казакі і «чернь», якіх было каля 3 тысяч. Нягледзячы на недахоп ружжаў, пораху, рагацін і бердышаў, Б. Хмяльніцкі забараніў паўстанцам пакідаць Р., паколькі яна мела вельмі важнае стратэгічнае значэнне. У 1649 горад заняў гетман Януш Радзівіл, які разбіў пад Лоевам атрады Крычэўскага і Падабайлы. Аднак у 1650 Р. апынулася ў руках палкоўніка Нябабы, які не змог утрымаць горад і быў забіты пры адступленні. Пасля гэтых падзей Я. Радзівіл значна ўмацаваў Р.

Паводле плана сярэдзіны 17 ст., горад меў як бы 3 лініі абароны. Першая лінія ўяўляла сабой умацаванні замка, якія складаліся з земляного кальцавога вала і 5 вежаў на ім. 2 вежы размяшчаліся над Дняпром, 3 — з боку горада. Уезд у Р. ажыццяўляўся з паўд. боку, праз разрыў у земляным вале. Тут, відаць, стаяла вежа-брама, перад якой праз глыбокі абарончы роў быў перакінуты мост. На вале былі драўляныя сцены-гародні. Да 2-й лініі абароны адносіліся ўмацаванні ўласна «места». Яны ўключалі дугападобны вал, які канцамі ўпіраўся ў бераг Дняпра. На вале стаялі 14 прамавугольных у плане драўляных вежаў з праслямі сцен-гародняў. Перад валам знаходзіўся сухі роў. Драўляназемляныя ўмацаванні Р. дапаўняліся 7 бастыёнападобнымі ў прыбярэжнай частцы горада, змыкаючы такім чынам абарончае кальцо ў раёне замка. Пад аховай гэтага комплексу гар. і замкавых абарончых збудаванняў знаходзіўся пешаходны спуск да Дняпра. Гарадскія брамы на плане Р. не паказаны, аднак можна меркаваць пра наяўнасць адной з іх у зах. частцы гар. фартыфікацыі. Паводле плана, тут стаяла ў лініі падковападобнага форбурга прамавугольная ў плане 15-я вежа. Трэцяя лінія абароны складалася з комплексу бастыённай фартыфікацыі, які абкружаў Р. з Пд, З і Пн. Яна замыкалася таксама ў прыбярэжнай частцы горада лініяй земляных умацаванняў і трымала пад абстрэлам раён Падола з прыстанню, рынкам і наплаўным мостам цераз Дняпро. Мост быў насланы на спец. судны, пастаўленыя на якар, і на процілеглым беразе абараняўся тэт-дэ-понам — перадмаставым земляным умацаваннем з 2 уездамі-выездамі. Як адзіная артэрыя, якая звязвала Р. з левабярэжным Паднепроўем, мост адыгрываў важную ролю ў арганізацыі абароны горада і лёгка прымаўся ў выпадку ваеннай небяспекі. Пры ўездзе ў Р. на беразе ракі стаяла яшчэ адна вежа, якая кантралявала доступ у прырэчную частку горада. Пад'ём уверх да Чарнігаўскай брамы размяшчаўся ў паўд. частцы бастыённых умацаванняў, быў пад пастаянным прыцэлам абаронцаў. Бастыённы пояс абароны, блізкі ў плане да прамавугольніка, уключаў 11 бастыёнаў рознай канфігурацыі і памераў, курціны і размешчаныя спераду абарончыя равы. Усе 3 уезды і спуск да прырэчнага рынку знаходзіліся пад заслонай бастыёнаў. Дысбаланс у структуры і тыпах умацаванняў замка і «места» з аднаго боку і бастыённага пояса абароны з другога, а таксама вял. памеры апошняга даюць падставу меркаваць, што бастыённыя збудаванні належалі да т. зв. «рэчыцкага лагера» сярэдзіны 17 ст., які фактычна быў базай войск ВКЛ. Гэта пацвярджаюць і рады доўгіх прамавугольных у плане будынкаў — хутчэй за ўсё салдацкіх казармаў. Яны нібыта абкружалі вялізную плошчу-«пляц», свабодную ад забудовы і неабходную для абучэння і агляду войска. Гравюра Р. сярэдзіны 17 ст. дае дадатковую інфармацыю пра тагачасныя ўмацаванні. На ёй зафіксаваны драўляныя збудаванні тыпу гародняў, якія стаяць на курцінах паміж бастыёнамі, рады байніц, невял. вежы на курцінах. За дахамі будынкаў бачны вільчыкі вежаў гар. лініі ўмацаванняў, якія ўверсе мелі форму васьмерыка. У пач. руска-польскай вайны 1654—67 войска ВКЛ пакінула рэчыцкі лагер і рушыла да Шклова, дзе ў жніўні 1654 пацярпела паражэнне ў бітве з войскамі кн. А. М. Трубяцкога. Р. не мела дастатковага гарнізона і ў ліпені таго ж года была занята казакамі І. Залатарэнкі. Пасля 1667 горад апынуўся ў баку ад гал. ваенных падзей 18 ст. Умацаванні паступова разбураліся, бастыёны рэчыцкага лагера былі скапаны. Аднак замак праіснаваў да канца 18 ст.

Р. вядома з Густынскага летапісу з 1213, з 1-га Наўгародскага — з 1214 як «чарнігаўскі» горад. У 1214 ён быў разгромлены наўгародскім кн. Мсціславам. У 14 ст. ў ВКЛ, у Мінскім ваяв. З 1392 да 1430 Р. валодаў вял. кн. ВКЛ Вітаўт. З 1561 горад меў магдэбургскае права (няпоўнае). Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Расійскай імперыі, павятовы цэнтр Мінскай губерні.

*Літ.:* 772, 848. *М. А. Ткачоў.*

**РЭЧЫЦКАЯ СТАЯНКА,** стаянка *грэнскай культуры* і кудлаеўскай культуры каля г. Рэчыца. На паўн.-зах. ускраіне горада, на 1-й надпоплаўнай тэрасе правага берага Дняпра. Выявіў у 1981 і даследаваў у 1981—86 У. П. Ксяндзоў. Культурны пласт разбураны ветравой эрозіяй, другасным засяленнем тэрыторыі ў бронзавым і раннім жал. вяках, распрацоўкай кар'ера.

На паверхні сабрана больш за 2000 рэчаў, у т. л. грэнскія наканечнікі стрэл з пласціністых адшчэпаў, канцавыя і авальныя скрабкі, сярэдзінна вуглавы разец, пласцінкі з прытупленым рэтушшу краем, нераўнабедраныя тупавугольныя трохвугольнікі, разнастайныя пласціны-ўкладышы, праколкі, свердлы, скоблі, рэтушаваныя пласціны і адшчэпы. Прылады працы выраблялiся з крэйдавага («сожскага») крэменю шэрага колеру.

Адносіцца да 2-й пал. эпохі мезаліту (6—5-е тысячагоддзі да н. э.).

*Літ.:* 619, 620. *У. П. Ксяндзоў.*

**РЭЧЫЦКІ КРАЯЗНАЎЧЫ МУЗЕЙ.** Адкрыты ў 1954. У археал. калекцыі больш за 1 тыс. знаходак (1991) з мезалітычнай стаянкі *Берагавая Слабада*, гарадзішчаў жалезнага веку *Борхаў, Глыбаў, Гарошкаў, Мілаград, Чаплін.*

У экспазіцыі крамянёвыя прылады працы (нуклеусы, наканечнікі стрэл, разцы, скрэблы, праколкі і інш.), каменныя зерняцёрка з таўкачом, шліфаваныя сякеры, тачыльны брусок, жал. землярobчыя прылады (сярпы, матыкі), касцяныя і жал. наканечнікі стрэл, кап'я, аброцевы ланцуг (6—4 ст. да н. э.), бронзавае літое кольца, упрыгожанае чатырохпялёсткавай псеўдазярнёнай разеткай, якое выкарыстоўвалася для мацавання мяча да рэменя (4—3 ст. да н. э.), прадметы конскай збруі (бронзавыя званочкі, бляшкі). Шырока прадстаўлены гліняны посуд (6 ст. да н. э. — 2 ст. н. э.), бронзавыя ўпрыгожанні (бранзалеты, пярсцёнкі, пацеркі, падвескі, скроневыя кольцы, шпількі, фібулы), мілаградскія грузікі. У экспазіцыі таксама медальён з вывай св. Фёдара (12 ст.), нацельны абразок (17 ст.). У нумізматычнай калекцыі больш за 3 тыс. манет, сярод іх візантыйская манета 10 ст., клады польскіх і літоўскіх грошаў 17—18 ст.

*І. А. Шафір.*

# С

**«САВЕ́ЦКАЯ КРАІ́НА»,** назва часопіса *«Наш край»* у 1930—32.

**СА́ВІЧЫ,** гарадзішча каля в. Савічы Брагінскага р-на. За 1 км на У ад вёскі, ва ўрочышчы Салавіца, у лесе. Мясц. назва Гарадзец. Мае 2 пляцоўкі, памеры адной 45×40 м, другой 65×40 м, раздзеленыя валам-перамычкай. З боку дарогі ўмацавана ровам глыб. 1 м і 2 валамі выш. 1,5 м. Адкрыў у 1929 І. Х. Юшчанка, абследавалі ў 1957 В. М. Мельнікоўская, у 1964 Л. Д. Побаль, у 1975 В. Е. Собаль. Культурны пласт 0,1—0,2 м. Знойдзена ляпная кераміка ранняга жал. веку. Раскопкі не праводзіліся.

**САГАНО́ВІЧ** Генадзь Мікалаевіч (н. 13.1.1961, в. Турная Івацэвіцкага р-на), бел. гісторык, археолаг. Канд. гіст. навук (1990). Скончыў Мінскі пед. ін-т (1984). З 1987 малодшы, з 1991 навуковы супрацоўнік Ін-та гісторыі АН Беларусі. Праводзіў раскопкі прыватнаўласніцкіх замкаў (Гарадоцкі, Глускі, Койданаўскі, Лоскі і інш.) і на іх аснове даследаваў кавальства Беларусі эпохі феадалізму. Вывучае ваенна-паліт. гісторыю Беларусі і ВКЛ. Складальнік і адзін з аўтараў зб. «Імя тваё Белая Русь» (1991).

*Тв.:* Некоторые результаты изучения кузнечного ремесла Белоруссии XVI—XVIII вв. // Археология и история Пскова и Псковской земли: Тез. докл. науч.-практ. конф. Псков, 1989; Канфесійная палітыка маскоўскіх улад на акупаванай тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага (1654—1667) // Наш родовод: Материалы междунар. науч. конф. по региональной истории Восточной Европы. Гродно, 1991. Кн. 3, ч. 2; Да гісторыі назвы «Белая Русь» // Старонкі гісторыі Беларусі. Мн., 1992; Айчыну сваю боронячы: Канстанцін Астрожскі. М., 1992.

**САКО́ЛЬНІКІ,** курганны могільнік крывічоў каля в. Сакольнікі Віцебскага р-на. За 1 км на ПдУ ад вёскі, паміж пагоркамі, ва ўрочышчы Кахоўка (б. маёнтак). 57 насыпаў выш. 1—1,5 м, дыям. 5—7 м. Даследаваў у 1891 Е. Р. Раманаў (3 курганы). У адным кургане выяўлены 3 шкілеты, каля аднаго ляжаў нож і гаршчок, у другім пры касцяку знойдзена хрусталёвая шарападобная пацерка, у трэцім — рэшткі трупаспалення, крэмень і рыбалоўны кручок. Абследавалі ў 1972 Г. В. Штыхаў, у 1981 Л. У. Калядзінскі.

*Літ.:* 986.

**САЛАНО́Е,** курганны могільнік дрыгавічоў каля в. Саланое Жлобінскага р-на. За 1 км на Пд ад вёскі. Захавалася 2 курганы. Выш. аднаго 1,5, другога 1,8 м, дыям. адпаведна 8 і 10 м. Вядомы з 1893. У 1905 Е. Р. Раманаў даследаваў 10 насыпаў, абследаваў у 1976 У. У. Багамольнікаў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне галавой на З. У адным кургане ўскрыта труна з 2 шкілетамі.

Знойдзены пярсцёнкападобныя скроневыя кольцы з завіткамі, буйназярністыя металічныя пацеркі, зах.-еўрап. (кёльнская) сярэбраная манета 10 ст., пярсцёнкі, шкляныя і сердалікавыя пацеркі, гаршчок з хвалістым арнаментам, фрагменты урны з арнаментам у выглядзе елачкі і інш.

Датуецца 11 ст.

*Літ.:* 980.



Г. М. **Сагановіч.**



І. І. **Салівон.**

**САЛАПЯ́ЦІШКІ,** могільнік каля в. Салапяцішкі Воранаўскага р-на. На паўн. ускраіне вёскі (знешніх прыкмет не мае). У 1903—06 В. А. Шукевіч даследаваў 32 пахаванні. У 2 пахавальны абрад — трупаспаленне па-за межамі пахавання. У адной магіле знойдзены вял. нож і абломак жалеза, у другой — 2 страмёны з шырокай падножкай, наканечнікі кап'я, шпора, цуглі, нож і інш. У 30 магілах пахавальны абрад — трупапалажэнне ў ямах (у мужчынскіх пахаваннях у большасці выпадкаў галавой на У, у жаночых — на З). Касцякі ў выцягнутым стане, рукі ўздоўж тулава (часам адна на жываце або грудзях) ці скрыжаваныя.

Знойдзены шыроказязовыя сякеры, нажы, крэсівы, наканечнік кап'я, наканечнік стралы, фібулы, спражкі, паясныя накладкі, тачыльныя брускі з адтулінамі для падвешвання, бронзавыя і сярэбраныя скроневыя кольцы, завушніцы, пярсцёнкі, жал. нажы, спражкі. Знойдзены таксама манеты ВКЛ, кавалкі ваўняных і льняных тканін, фрагменты керамікі.

Могільнік датуецца 12—13 ст. і больш познім часам.

*Літ.:* 897, 1491. *Я. Г. Звяруга.*

**САЛАЎЁВА** Галіна Фёдараўна (н. 26.2.1922, г. Іванцееўка Маскоўскай вобл.), рускі археолаг. Канд. гіст. навук (1953). Скончыла Маскоўскі ун-т (1945). З 1945 у Ін-це археалогіі АН СССР, з 1950 інспектар Упраўлення музеяў і аховы помнікаў Мін-ва культуры РСФСР, з 1959 навук. супрацоўнік Ін-та археалогіі АН СССР. Даследавала больш за 150 курганоў на Гомельшчыне і Магілёўшчыне (1962—70), замак рагачоўскіх князёў 12 ст. *(Збароў).* Адкрыла слав. пахавальныя помнікі 6—9 ст. *(Вароніна, Дзям'янкі),* язычніцкае свяцілішча *Ходасавічы* Рагачоўскага р-на, выявіла «вогненныя кольцы» ў пахавальным абрадзе радзімічаў (вядомыя раней па летапісах). Удзельнічала ў дыскусіях пра ўплыў балцкага субстрату на культуру радзімічаў. Лічыць, што славяне з'явіліся ў Верхнім Падняпроўі ў 6—7 ст., што ўплыў на іх балцкага субстрату парабольшаны.

*Тв.:* Погребальные обряды // Древности железного века в междуречье Десны и Днепра. М., 1962; Семилучевые височные кольца // Древняя Русь и славяне. М., 1978; О роли балтского субстрата в истории славянских племён Верхнего Поднепровья // Сов. археология. 1971. № 2.

*Літ.:* 138. *У. У. Багамольнікаў.*

**САЛІВОН** Інеса Іванаўна (н. 24. 12. 1937, Барысаў), беларускі антраполаг. Канд. гіст. навук (1970). Скончыла Мінскі медыцынскі ін-т (1960), працавала ўрачом. З 1965 у Ін-це мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору (ІМЭФ) АН Беларусі, з 1973 старшы навуковы супрацоўнік. Вывучае асн. заканамернасці фарміравання фізічнага тыпу стараж. і сучаснага насельніцтва ў свеце этнагенетычных працэсаў і адаптацыі арганізма да розных экалагічных

умоў. Даследавала могільнікі 18 — пач. 19 ст. ў вёсках Лукомль Чашніцкага, Губічы Буда-Кашалёўскага, Глоўсевічы Слонімскага, Прусы Капыльскага, Насілава Маладзечанскага, Пагост-Загародскі і Камень Пінскага, Рудзец Малы Кобрынскага, Мілевічы Жыткавіцкага, Мокішы Хойніцкага р-наў. У выніку чаго складзена краніялагічная калекцыя па бел. сельскім насельніцтве (больш за 200 адзінак). Вывучэнне варыяцый будовы шкілета стараж. насельніцтва па матэрыялах археал. раскопак у параўнанні з апублікаванымі данымі розных аўтараў пра насельніцтва Усх. Еўропы 1—2-га тысячагоддзяў н. э. дазволіла ўстанавіць кірункі этнагенетычных працэсаў і змянлівасць з цягам часу фізічнага тыпу насельніцтва Беларусі: за апошнюю тысячу гадоў шкілет стаў менш масіўны, паменшыўся падоўжаны дыяметр галавы і павялічыўся шыротны, таму галава набыла больш круглую форму. З 1972 у складзе комплексных экспедыцый ІМЭФ АН Беларусі вывучае тэрытарыяльныя і ўзроставыя асаблівасці сучаснага дарослага насельніцтва і вучняў школ па якасных і вымяральных характарыстыках розных прыкмет будовы цела.

*Тв.:* Очерки по антропологии Белоруссии. Мн., 1976 (разам з Л. І. Цягакай, А. І. Мікулічам); Антропология Белорусского Полесья: (Демография, этнич. история и генетика). Мн., 1978 (з імі ж); Экологические аспекты в антропологических исследованиях на территории БССР. Мн., 1982 (разам з Л. І. Цягакай); Основы современной антропологии. Мн., 1989 (з ёй жа); Краніялогія насельніцтва Беларускага Панямоння па матэрыялах каменных могільнікаў (разам з А. В. Квяткоўскай, А. І. Кушнірам) // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1989. № 3; Сельское население Среднего Побужья IX—XIII вв. (по материалам курганных могильников) (разам з Т. М. Каробушкінай) // Сов. археология. 1990. № 3.

**САЛТАНАЎКА,** група археал. помнікаў каля в. Салтанаўка Магілёўскага р-на.

Стаянка эпохі мезаліту. За 1,5 км на Пн ад вёскі, 300 м на Пд ад лініі электраперадачы, на 2-й надпоплаўнай тэрасе правага берага Дняпра. Адкрыў у 1974 і даследаваў 12 $м^2$ у 1989 В. Ф. Капыцін. Культурны пласт 0,1 м. Апрацаваны крэмень сустракаецца ўздоўж броўкі тэрасы.

Знойдзены нуклеусы, пласціны, адшчэпы, канцавыя скрабкі, рэтушныя разцы, нажы і інш.

Курганны могільнік эпохі Кіеўскай Русі. За 2,5 км на Пн ад вёскі Салтанаўка, 1 км на У ад в. Сялец, на 2-й надпоплаўнай тэрасе правага берага Дняпра, з паўд. боку колішняга рова. Адкрыў і абследаваў у 1974 Капыцін. 15 насыпаў выш. 0,8—2 м, дыям. 12—18 м. Знішчаны ворывам.

Курганны могільнік эпохі Кіеўскай Русі. За 1 км на ПнЗ ад вёскі, каля лініі электраперадач. Вядомы з 1873, абследавалі ў 1928 А. Дз. Каваленя, у 1974 Я. Р. Рыер, у 1977 Л. У. Дучыц, у 1989 Капыцін. 3 курганы выш. 0,3—1,2 м, дыям. 8—12 м.

Курганны могільнік эпохі Кіеўскай Русі. За 1 км на ПдУ ад дарогі Магілёў—Дашкаўка, на 1-й надпоплаўнай тэрасе правага берага Дняпра. Вядомы з 1873, абследавалі ў 1928 Каваленя, у 1974 Рыер, у 1977 Дучыц, у 1989 Капыцін.



Донца пасудзіны 12 — 1-й пал. 13 ст. з **салярным знакам** у выглядзе свастыкі. Лоск.

Насыпы выш. 0,5—0,8 м, дыям. 8—10 м, параслі лесам.

Стаянка эпохі неаліту. За 1 км на Пд ад вёскі, 1 км на З ад вусця р. Хватаўка, на 1-й надпоплаўнай тэрасе Дняпра.

У агаленнях тэрасы выяўлены канцавыя скрабкі, рэтушаваныя пласціны, адшчэпы, наканечнік дроціка і фрагменты керамікі з ямкавым арнаментам.

*Літ.:* 470, 1046. *В. Ф. Капыцін.*

**САЛЯРНЫЯ ЗНАКІ,** сімволіка, звязаная з пакланеннем сонцу і культам агню. Узніклі як вынік язычніцкіх рэлігійных вераванняў. Пакланенне сонцу зарадзілася з паяўленнем земляробства, што тлумачыцца залежнасцю будучага ўраджаю ад сонечнага цяпла і святла.

Салярнымі сімваламі з пэўнай доляй верагоднасці можна лічыць канцэнтрычныя кругі з элементамі арнаменту, а таксама крыжападобныя фігуры, утвораныя перасячэннем арнаментальных палосак ці стужак, нанесеныя на донцы керамічных пасудзін неаліту і бронзавага веку (гл. ў арт. *Клеймы*). Сімвалам сонца, бессмяротнасці, уваскрэсення і ачышчэння ў глыбокай старажытнасці стаў крыж. Падвескі ў выглядзе крыжыкаў нярэдка сустракаюцца ў курганных пахаваннях. Сімвалам зямнога і нябеснага (сонечнага) агню была свастыка, вядомая не толькі ў стараж. славян, але і ў інш. індаеўрапейскіх народаў. Яе выявы ёсць на пасудзінах, знойдзеных каля в. Нача Воранаўскага р-на, в. Тайманава Быхаўскага р-на, на Мінскім замчышчы, у Заслаўі. Як салярны сімвал, сімвал ідэі аб сувязі жыватворных сонечных праменяў з урадлівасцю ў раслінным свеце, узнік шасціканцовы крыж з дзвюма паралельнымі перакладзінамі аднолькавай даўжыні (Ярылаў крыж). Пазней, з узнікненнем «Пагоні» як герба ВКЛ, на шчыце вершніка з'явілася яго выява. Аграрны культ сонца знаходзіў сваё адлюстраванне таксама ў выявах кола, круга, разеткі і іх разнастайных камбінацый, якія з'яўляліся адмысловымі ідэаграмамі. Большасць з іх, як і крыж са свастыкай, узніклі ў глыбокай старажытнасці. Матывы разеткі даволі часта сустракаюцца на металічных падвесках і шыйных грыўнях з пахаванняў радзімічаў, а таксама ў Полацку.

*Літ.:* 1014, 1015. *Э. М. Зайкоўскі.*

**САПОДЗЬКА** Тытус (1845, Гродзеншчына ці Міншчына — 27.5. 1896), беларускі археолаг, антраполаг. Чл.-кар. Пецярбургскай АН, чл. Кракаўскай АН. Вучыўся ў Пецярбургу. Па адукацыі інжынер. У 1875 і 1883 вёў археал. раскопкі ў Ігуменскім пав. Зарэгістраваў і, магчыма, раскапаў 700 курганоў. У выніку іх аналізу вылучыў найбольш раннія курганы паўкруглай формы, сярод іх адзіночныя — ахнаравальныя; круглавата-стогападобныя, характэрныя бессістэмнасцю планіроўкі; больш познімі па часе пахаванняў лічыў адзіночныя курганы, т. зв. жальнікі, каля падножжа якіх выяўлены заглыбленні або равы. Вёў раскопкі ў Барысаўскім пав. (паміж Смалярамі і Мсціжам), каля вусця р. Трасцяніцы і ў інш. месцах. Рабіў замалёўкі, складаў табліцы, планы, збіраў легенды пра помнікі. Многія матэрыялы раскопак паступілі ў Кракаўскую АН. Спрабаваў правесці мяжу паміж т. зв. Чорнай Руссю і Белай Руссю. Адзін з першых у бел. археалогіі рабіў хімічныя аналізы сваіх знаходак.

*Тв.:* Poszukiwania archeologiczne w powiecie Ihumeńskim, gub. Mińskiej w r. 1875 i 1883 dokonane // Zbiór wiadomości do antropologii krajowej. 1889. T. 13; Przyczynek do archeologii białoruskiej // Przegląd powszechny. 1891. T. 1.

*Літ.:* 5146. *Г. А. Каханоўскі.*

**САПУНОЎ** Аляксей Парфёнавіч [15(27).3.1851, мяст. Усвяты Пскоўскай вобл.— 2.10.1924], беларускі гісторык, археограф, краязнавец, даследчык помнікаў стараж. культуры. Прафесар (1913). Скончыў Пецярбургскі ун-т (1873). З 1879 працаваў выкладчыкам у Віцебскай гімназіі, з 1895 — у Віцебскім цэнтральным архіве стараж. грамат, з 1897 выкладчык Маскоўскага ун-та, з 1901 сакратар Віцебскага губернскага статыстычнага к-та. Актыўна ўдзельнічаў у стварэнні *Віцебскага царкоўна-археалагічнага музея* (1893) і *Віцебскай вучонай архіўнай камісіі* (1909). Адзін з ініцыятараў адкрыцця Віцебскага аддзялення Маскоўскага археал. ін-та, выкладаў у ім і ў настаўніцкім ін-це (1911—22). У 1923—24 чытаў

курс беларусазнаўства ў Віцебскім вышэйшым педагагічным ін-це. Даследаваў гісторыю, літаратуру, археалогію, археаграфію, архітэктуру, фальклор Беларусі, у асноўным Віцебшчыны. Выявіў і зрабіў палеаграфічныя апісанні рукапісных помнікаў. Асн. праца — зборнік дакументаў 11—19 ст. «Віцебская даўніна» [т. 1, 4, 5 (т. 2 і 3 не выдаваліся), 1883—88], дзе змясціў урыўкі з летапісаў, граматы віцебскіх і полацкіх князёў і інш.

*Тв.:* Полоцкий Софийский собор. Витебск, 1888; Двинские или Борисовы камни: Исслед. Витебск, 1890; Река Западная Двина: Ист.-геогр. обзор. Витебск, 1893; Материалы по истории и географии Дисненского и Вилейского уездов Виленской губернии. Витебск, 1896 (разам з В. Друцкім-Любецкім); Памятники времён древних и новейших в Витебской губернии. Витебск, 1903; Университет в Полоцке. Витебск, 1908.

*Літ.:* 518, 1137, 1236.

*Г. А. Каханоўскі.*

**САРКАФА́Г** (грэч. sarkophagos, літар. пажыральнік мяса), архітэктурна і па-мастацку аформленая труна з дрэва, каменю, металу і інш. С. вядомы ў Стараж. Егіпце, Грэцыі і Рыме. У Кіеўскай Русі пяявіліся з прынящем хрысціянства. Самы стараж. С. на Беларусі знойдзены ў Тураве (12 ст.). Вядомы С. кн. Радзівілаў (17 — пач. 20 ст.) у Нясвіжскім фарным касцёле, Сапегаў у ***Гальшанскім кляштары францысканцаў.***

*Літ.:* 494.

**САРМА́ТЫ** (грэч. sarmatai), агульная назва плямён Паўн. Прычарнамор'я ў 3 ст. да н. э.— 4 ст. н. э. Разам са *скіфамі* ўваходзілі ў зах. галіну роднасных іранамоўных плямён, былі блізкія скіфам па мове і звычаях. Продкі С.— саўраматы займалі стэпы Паволжа і Прыкаспія (7—3 ст. да н. э.).

Герадот прыводзіць паданне пра паходжанне саўраматаў ад шлюбаў скіфаў з амазонкамі, падкрэсліваючы значную ролю жанчын у грамадскім жыцці (разам з мужчынамі займаліся паляваннем, ваявалі). Паводле Скілака ў саўраматаў кіравалі жанчыны. У 3—2 ст. да н. э. саўраматы перайшлі Дон і авалодалі Скіфіяй, якую сталі называць Сарматыяй. Першапачаткова, напэўна, іх узначаліла племя «царскіх» С. (саеў), потым кіруючую ролю па чарзе выконвалі языгі, раксаланы, аорсы, аланы. Вядомы таксама іншыя сармацкія плямёны — фісаматы, саўрадаты, ургі. Грамадства С. нагадвала грамадства стэпавых скіфаў. Спачатку ў С. існаваў патрыярхальны лад з перажыткамі матрыярхату, у 2 ст. да н. э. пачалося ўтварэнне класаў з вылучэннем родаплемяннй знаці і ваенных правадыроў. Паводле Страбона С. ў асн. вандроўнікі. Аселыя С. займаліся земляробствам. Пашыраны былі апрацоўка жалеза, скур, ткацтва, ганчарства, ювелірнае рамяство. Ваяўнічыя плямёны С. вялі войны з дзяржавамі Закаўказзя, Рымскай імперыяй, у 2 ст. да н. э. падпарадкавалі грэчаскі горад-калонію Ольвію і прымусілі плаціць даніну. На Пн падтрымлівалі сувязі з пагранічнымі плямёнамі *зарубінецкай культуры.*

*С. Я. Расадзін.*

**САРМА́ЦКАЯ КУЛЬТУ́РА,** археал. культура *сарматаў.* Мае 4 этапы: ранні (4—3 ст. да н. э.), пераходны (2—1 ст. да н. э.), сярэдні (1 ст. да н. э.— 1 ст. н. э.) і позні (2—4 ст.). Вядома паводле раскопак курганоў.

Для С. к. характэрны ўпускныя пахаванні ў курганах бронзавага веку або скіфскіх (гл. *Скіфская культура*). Нябожчыка клалі ў прамавугольную яму, перакрытую накатам з дошак ці жэрдак, галавою на Пд. Адметнай рысай з'яўляюцца штучна дэфармаваныя чарапы, што дасягалася працяглым іх бінтаваннем у раннім узросце. Пахавальны інвентар разнастайны; значная колькасць зброі (доўгія мячы, жал. наканечнікі стрэл, дзідаў і дроцікаў), зрэдку — рэшткі панцыраў у мужчынскіх і жаночых пахаваннях, упрыгожанні грэчаскага і персідскага (ранні этап) ці рымскага (позні этап) паходжання, металічныя люстэркі і шматлікія залатыя бляшкі, якія нашывалі на адзенне. Багатым уборам вызначаецца жаночае пахаванне ў кургане Сакалова Магіла (1 ст.) у Нікалаеўскай вобл. У кургане Хахлач каля Новачаркаска знойдзена дыядэма сармацкай царыцы. Да арыгінальных праяў С. к. адносяцца вялікія бронзавыя катлы і радавыя знакі (тамгі), якія высякаліся на надкурганных каменных стэлах. Курганы і курганныя могільнікі сарматаў зберагліся на Ніжнім Доне, Паўн. Каўказе і ў Заволжы. Сарматы мелі кантакты з плямёнамі *зарубінецкай культуры.* Рэчы сармацкага паходжання знойдзены ў пагранічных помніках гэтай культуры.

*С. Я. Расадзін.*



А. П. **Сапуноў.**



**Саркафаг** з Турава. 12 ст.

**САХА́,** драўляная (акрамя металічных сашнікоў — нарогаў) вупражная ворная прылада. Паявілася ў канцы 1-га тысячагоддзя н. э. ў сувязі з удасканаленнем больш стараж. ворнай прылады — *рала.* С. рэдка сустракаецца пры археал. раскопках з-за дрэннай захаванасці дрэва. Драўляныя расохі (асн. дэталь складанага віду С. з перакладной паліцай) знойдзены толькі двойчы: у с. Старая Ладага (10 ст., С.-Пецярбургская вобл.) і ў 1982 у Віцебску (13 ст.). Значна часцей трапляюцца металічныя сашнікі (нарогі), але па іх цяжка зрабіць рэканструкцыю С., не кажучы ўжо аб яе асаблівасцях. Знаходкі сашнікоў даюць падставу сцвярджаць, што С. паявіліся на тэр. Усх. Еўропы ў 9—10 ст.

Самы стараж. сашнік на тэр. Беларусі, знойдзены ў Лукомлі, датуецца канцом 10 — пач. 11 ст. Сашнікі 11—13 ст. знойдзены ў Брэсце, Ваўкавыску, Друцку, Пінску і Полацку (па 1 экз.), Чачэрску (2 экз.), Гродне (4 экз.), Лагойску і Оршы (па 3 экз.), большасць з іх даўж. 14,8—21 см, мае вузкую, злёгку выгнутую рабочую частку даўж. 7,5—10,5 см, круглаватую ў сячэнні трубіцу, строга сіметрычную з завужанай у канцы рабочай часткай або злёгку асіметрычную формы. Паводле этнаграфічных матэрыялаў вылучаюць віцебскую (рускую) з перакладной паліцай, падняпроўскую (магілёўскую, або беларускую) і палескую (літоўскую, надляшскую) С. Асноўнай прыладай апрацоўкі зямлі на Беларусі ў 10—13 ст. была двухзубая С. спачатку з нерухомай, а потым перакладной паліцай і без яе, пра што сведчаць знаходкі парных сашнікоў разам з інш. прыладамі ў Гродне ў зямлянцы 11—12 ст. і ў гасп. яме 13 ст. ў Лукомлі, а таксама расоха 13 ст. з Віцебска. Паліцу можна было ўстанаўліваць так, каб яна адкідвала зямлю ў правы або левы бок. З 14 ст. даўжыня сашнікоў дасягнула 30 см, рабочая частка іх мела завостраную форму. Такі сашнік знойдзены ў Брэсце ў пласце 14 ст. С. існавала да 1920-х г. На ПдЗ Беларусі была пашырана больш складаная палеская С. Вядома, што з 17 ст. яна выкарыстоўвалася таксама на Украіне, у Літве і Польшчы. Больш ранняе яе існаванне нельга пацвердзіць ні археал., ні пісьмовымі крыніцамі.

*Літ.:* 582, 602, 795, 1295.

*Т. М. Каробушкіна.*

**САЮ́З ПЛЯМЁН,** умоўная назва міжплемянных аб'яднанняў, якія ўтвараліся адначасова з пераходам ад роду да сельскай тэрытарыяльнай абшчыны і папярэднічалі ўтварэнню дзяржавы. У жал. веку ўзніклі пад уплывам знешніх абставін (напрыклад, для барацьбы са знешнімі ворагамі), пазней набывалі характар больш устойлівых аб'яднанняў

для эпізадычных ваенных дзеянняў, праяўлення палітычнай актыўнасці. Ва ўсх. славян у 8—9 ст. С. п.— значныя этнічныя групоўкі, у аснове якіх ляжалі родаплемянныя, тэрытарыяльныя, эканам. і паліт. сувязі.

У «Аповесці мінулых гадоў» названы «княжэннямі», якія існавалі да ўзнікнення Кіеўскай Русі, па сутнасці былі пранароднасцямі на розных узроўнях кансалідацыі. Адначасова ва ўсх. славян С. п. былі пачатковымі дзярж. ўтварэннямі тэрытарыяльна-палітычнага характару або прадзяржавамі. На чале іх стаялі правіцелі, якія мелі тытул «Светлы князь». Стварэнню С. п. садзейнічалі развіццё сувязей паміж плямёнамі або ваенныя перамогі адных плямён над другімі ці, нарэшце, неабходнасць барацьбы з агульнай знешняй небяспекай. У выніку асіміляцыі балтаў славянамі ў 8—10 ст. у Верхнім Падзвінні і Падняпроўі сфарміраваліся С. п. *крывічоў* (палачан), *дрыгавічоў*, *радзімічаў*. Археал. вывучэнне курганных могільнікаў дазволіла ўдакладніць межы іх рассялення на тэр. Беларусі, а таксама выявіць у матэрыяльнай культуры і пахавальных абрадах наяўнасць балцкіх элементаў. У летапісах упаміналіся да сярэдзіны 12 ст. Паводле археал. матэрыялаў, захоўвалі да пач. 13 ст. некаторыя асаблівасці ў жаночых упрыгожаннях, у т. л. *скроневых кольцах*. Пазней С. п. на тэр. Беларусі ўцягваліся ў працэс фарміравання новага этнічнага ўтварэння — бел. народнасці.

*Літ.:* 250а, 364, 848, 885а.

*В. Г. Штыхаў.*

**СВЕ́РЫНАВА,** стаянкі каменнага і бронзавага вякоў (4-е — 3-е тысячагоддзі да н. э.) каля в. Сверынава Стаўбцоўскага р-на.

С т а я н к а - 1. За 400 м на Пд ад былой в. Куцец, на правым беразе Нёмана, на дзюне даўж. 60 м. Выявіў у 1975 і даследаваў (176 м²) у 1976 М. М. Чарняўскі. Культурны пласт 0,3—0,6 м.

Выяўлены агнішчы, выкладзеныя камянямі, крамянёвыя скрабкі, нажы, лістападобныя наканечнікі дзідаў і іншыя вырабы, неалітычная вастрадонная кераміка, упрыгожаная грабеньчатымі адбіткамі, насечкамі, пракрэсленымі і прагладжанымі лініямі, паўмесяцавымі, трохвугольнымі і ямкавымі наколамі, паглыбленнямі ў выглядзе семечак (адбіткі канцом лапаткі) і інш.

Адносіцца да *нёманскай культуры* з уплывам *верхнедняпроўскай культуры.*

С т а я н к а - 2. За 1 км на У ад вёскі, ва ўрочышчы Сосны, на паўн.-зах. краі дзюнападобнага ўзвышэння правабярэжжа Нёмана. Выявіў у 1975 і даследаваў 48 м² у 1976 М. М. Чарняўскі. Знойдзены крамянёвыя прылады працы і кераміка ранняга (дубічайскага) этапу нёманскай культуры.

С т а я н к а - 3. За 1,5 км на ПдЗ ад вёскі, на валападобным узвышэнні правабярэжнай надпоплаўнай тэрасы Нёмана. Часткова пашкоджана кар'ерам. Выявіў у 1975 М. М. Чарняўскі. Знойдзены крамянёвыя і керамічныя матэрыялы нёманскай культуры.

На паўд. ускраіне вёскі (былая в. Куцец) і на краі высокай тэрасы — рэшткі мезалітычных стаянак.

*Літ.:* 1289.

*М. М. Чарняўскі.*

**СВІДРАВА́ННЕ,** прыём нанясення адтулін у цвёрдых матэрыялах. Неабходны прыём для злучэння розных прадметаў — прылад працы, зброі, упрыгожанняў.

Выкарыстоўвалася ўжо жыхарамі познапалеалітычных стаянак Падняпроўя пры вырабе падвесак з ракавін і зубоў. У познім палеаліце, мезаліце і неаліце прасвідроўвалі вял. адтуліны ў рагавых сякерах, матыках і іншых вырабах. У бронзавым веку з такімі ж адтулінамі пашыраны бронзавыя сякеры, матыкі, булавы і інш. З дапамогай С. рамантавалі («сшывалі») пашкоджаную кераміку. У жал. веку і ў больш позні час С. выкарыстоўвалі таксама шырока, асабліва на дрэве. Старажытныя людзі свідравалі крамянёвым свердлам, прымацаваным да стрыжня, які раскручвалі далонямі. У неаліце паявіліся лучковыя і, магчыма, дыскавыя свідравальныя прыстасаванні. Вялікія цыліндрычныя адтуліны, асабліва ў бронзавым веку, рабілі свярдзёлкамі з трубчастых касцей жывёл з падсыпкай буйназярністага пяску.

*Літ.:* 1070, 1074.

*М. М. Чарняўскі.*



**Саха** з перакладной паліцай.



Да арт. **Саха.** Жалезныя сашнікі з Гродна. 11—12 ст.

**СВІДЭ́РСКАЯ КУЛЬТУ́РА,** археал. культура плямён, якія ў сярэдзіне 9 — пач. 8-га тысячагоддзя да н. э. жылі на тэр. Польшчы і Беларусі (басейны рэк Віслы, Нёмана, Прыпяці). Назву атрымала ад помніка Свідры-Вельке, выяўленага на тэр. Польшчы, на месцы зліцця Віслы і Свідэра. Вылучыў у 1923 польскі археолаг Л. Казлоўскі, даследавалі С. Крукоўскі, Л. Савіцкі, Р. Шыльд, Р. Рымашэне, Л. У. Кальцоў, У. Ф. Ісаенка, Л. Л. Залізняк і інш. Плямёны жылі ва ўмовах тундры.

Асн. занятак насельніцтва — паляванне на паўн. аленя. Яно пакінула кароткачасовыя стаянкі адкрытага тыпу. Жытлы круглаватыя, шалаша- і трапецападобныя, паглыбленыя ў зямлю, з вогнішчам пасярэдзіне. Некаторыя жытлы мелі ўваходны калідор. Інвентар С. к. прадстаўлены хвалістымі і тронкавымі наканечнікамі стрэл, апрацаванымі крутой рэтушшу па краях і плоскай з брушка, канцавымі дугападобнымі скрабкамі з падоўжаных пласцін і адшчэпаў, сярэдзіннымі, бакавымі і вуглавымі пласціністымі разцамі, праколкамі, скоблямі, адна- і двухпляцовачнымі нуклеусамі, сярод якіх вылучаюцца вырабы з косапастаўленымі пляцоўкамі. Большасць прылад працы выраблялася з пласцін.

На думку некаторых даследчыкаў, вытокам для развіцця позняй С. к. стала *лінская культура.* Насельніцтва С. к. з'явілася генетычнай асновай сожскай (днепра-дзяснінскай), нёманскай, бутаўскай і кундскай мезалітычных культур лясной паласы Еўрап. часткі былога СССР.

*Літ.:* 286, 562, 975.

*У. П. Ксяндзоў.*

**СВІ́ЛА-1,** гарадзішча жал. веку і пачатку эпохі феадалізму, культуры *доўгіх курганоў* каля в. Свіла 1-я Глыбоцкага р-на. За 1 км на ПнЗ ад вёскі. Размешчана на высокім 13—15-метровым узвышшы на беразе невял. забалочанага возера, з якога выцякае ручай, што агінае гарадзішча з усіх бакоў і ўпадае ў воз. Пліса. Вылучаецца вял. памерамі і магутнымі абарончымі збудаваннямі. Пляцоўка роўная, авальная ў плане, памер 100×80 м. Абарончая сістэма складаецца з трох высокіх кальцавых валоў і 2 глыбокіх равоў: унутраны вал выш. каля 1,5 м, шыр. каля 10 м, узведзены па краі пляцоўкі; другі вал выш. 2—2,5 м, шыр. каля 10 м знаходзіцца на схіле гарадзішча на 3—5 м ніжэй унутранага вала; трэці вонкавы вал выш. 1,5—2 м, шыр. 8—10 м праходзіць уздоўж асновы ўзвышша. Паміж валамі заключаны равы глыб. 1,5—2,5 м, шыр. 10—13 м. Пляцоўка і схілы помніка зараслі лесам і хмызняком. Гарадзішча апісаў у 1893 Ф. В. Пакроўскі, абследавалі ў 1965 Г. В. Штыхаў, у 1972 М. А. Ткачоў; раскопкі праводзілі ў 1974 А. Р. Мітрафанаў і В. І. Шадыра, у 1989, 1990 Шадыра. Культурны пласт 0,3—0,4 м.

Асн. знаходкі: наканечнікі стрэл, скроневыя кольцы, завушніца-лунніца, праслічы; рэшткі глінянага посуду адносяцца да культуры доўгіх курганоў, якая належала крывічам і асіміляваным балтам. На гарадзішчы выяўлены 2 грунтавыя пахаванні з абрадам трупаспалення. Гэта пакуль першы выпадак крывіцкага пахавання бескурганнага насыпу. Побач з пахаваннямі даследавана гасп. яма, запоўненая культурным пластом, перамяшаным з вял. колькасцю абпаленага зерня азімага жыта.

Зерне знаходзілася і ў цэлым гаршку, які адносіцца да 9 ст. Побач знойдзены наканечнік стралы, што таксама датуецца 9 ст. Знаходкі ў яме з'яўляюцца самым раннім сведчаннем культуры азімага жыта на тэр. Беларусі. На гарадзішчы знойдзены матэрыялы *банцараўскай культуры* (кераміка, праслііцы і інш.).

Комплекс асн. рэчаў гарадзішча датуецца 9 — пач. 10 ст. Але наяўнасць банцараўскіх матэрыялаў сведчыць пра тое, што яно заснавана раней балцкімі плямёнамі, а ў далейшым ператворана крывічамі ў апорны пункт пры асваенні новых зямель у Падзвінні.

*Літ.:* 781, 909. *В. І. Шадыра.*

**СВІР,** археал. помнікі ў г. п. Свір Мядзельскага р-на.

Гарадзішча-1. У цэнтры пасёлка, на ізаляваным з вельмі стромкімі схіламі пагорку, які ўзвышаецца над навакольнай мясцовасцю на 12—15 м. Пляцоўка памерам 30×40 м. Усходняя частка пагорка разбурана кар'ерам. Захавалася частка пляцоўкі памерам 12×28 м. У 1976 Я. Г. Звяруга даследаваў 48 м². Культурны пласт да 2,6 м. Пад рэшткамі сярэдневяковага замка, заснаванне якога прыпісваецца літоўскаму кн. Даўмонту (13 ст.), выяўлены сляды паселішча эпохі ранняга жалеза. Гэта селішча не мела абарончых збудаванняў (яго надзейнай аховай з'яўляліся найперш стромкія схілы пагорка). Драўляны сярэдневяковы замак быў абнесены кальцавым валам выш. 3 м. Рэшткі замка ў канцы 16 ст. апісаў польскі храніст М. Стрыйкоўскі. Сярод выяўленых у час раскопак рэчаў найб. шматлікія ўпрыгожанні: пярсцёнкі, скроневыя кольцы, бразготкі, спіралькі, бранзалет, падкովападобная фібула і інш.

Знойдзены жал. нажы, вісячыя, у т. л. цыліндрычныя, замкі, шылы, наканечнікі стрэл, гліняныя і шыферныя праслііцы, каменная форма для ліцця, разнастайныя вырабы з косці (праколкі, ручкі, абоймы і інш.). Кераміка ў ніжнім гарызонце ляпная (штрыхаваная і гладкасценная), у верхнім ганчарная.

Гарадзішча-2. На паўд.-зах. ускраіне пасёлка, злева ад дарогі на Смаргонь, ва ўрочышчы Гарадок. Займае мыс прыроднага ўзвышша, якое ўразаецца ў воз. Свір. З зах. боку ўмацавана валам выш. 1—1,5 м і ровам шыр. да 8—10 м. Пляцоўка з паўд. боку пашкоджана кар'ерам. Культурны пласт 0,4—0,6 м. Выявіў у 1980 М. М. Чарняўскі, абследаваў у 1985 Звяруга. Знойдзена штрыхаваная і гладкасценная кераміка. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* 424, 429. *Я. Г. Звяруга.*

**СВІСЛАЦКІ ЗАМАК.** Існаваў у 12—17 ст. каля в. Свіслач Асіповіцкага р-на. Гарадзішча «Замак», звязанае з гісторыяй Свіслачы, размешчана на мысе правага берага р. Бярэзіна, у якую справа ўпадае р. Свіслач. Стараж. матэрыялы сведчаць пра існаванне тут яшчэ ў раннім жал. веку паселішча культуры штрыхаванай керамікі. На мяжы 11—12 ст. на яго месцы ўзнік феад. замак, што стаў цэнтрам Свіслацкага княства (з 15 ст.— цэнтр воласці), якое спачатку ўваходзіла ў склад Мінскага княства, а з 14 ст.— у ВКЛ. У сярэдзіне 17 ст. замкавая пляцоўка мела форму прамавугольніка, была аддзелена ад астатняга плато шырокім (каля 15 м) і дугападобным ровам і ўмацавана па краі земляным валам. Над узроўнем вады ў Свіслачы замчышча ўзвышалася на 12 м. Яго пляцоўка ў сярэдзіне 17 ст. мела памеры каля 72,8×63,5 м. Пазней, калі вал быў зніверліраваны, замкавая пляцоўка павялічылася, дасягнуўшы памераў 77×67 м (паводле П. А. Рапапорта) ці 70×70 м (паводле Э. М. Загарульскага), Л. Д. Побаль падае лічбу 80×75 м. У выніку праведзеных у 1962 Загарульскім археал. раскопак выяўлена, што ў 1-й пал. 13 ст. драўляны замак быў спалены. Потым яго разбурылі ў 1506 крымскія татары і ў 1535 рус. войскі.



Знаходкі з гарадзішча Свіла-1.

Паводле плана С. з. (1647), зробленага ўладальнікам Свіслачы кн. Багуславам Радзівілам, у драўляным замку былі 3 вежы, у т. л. ўязная брама, і 2 участкі сцен-гародняў даўж. 39 м і 35,8 м. План і ўсе пабудовы на ім вычарчаны ў маштабе. 2 вежы (7×7 м кожная) стаялі з боку р. Свіслач, цераз якую быў наведзены мост. Прыблізна такія памеры мела і ўязная замкавая брама. На самым мысе С. з. размешчана пабудова ў форме прамавугольніка, да якой прымыкалі праслы замкавых сцен. Памеры будынка (каля 12,7×11,7 м) не дазваляюць лічыць яго 4-й вежай (відаць, гэта дом адміністратара). Аднак яго месцазнаходжанне на мысе, злучанасць праходамі з суседнімі гароднямі даюць падставу меркаваць, што ён адыгрываў пэўную ролю ў абароне замка. На другім плане Радзівіла, акрамя замка, пазначаны і ўчастак тэрыторыі паміж Бярэзінай і Свіслаччу. У месцы найб. блізкага працякання іх адна ад адной знаходзіліся земляны вал з брамай на ім і абарончы роў, які запаўняўся вадой. Верагодна, гэта была адна з брам. Другая размяшчалася з боку моста цераз р. Свіслач. У час антыфеад. вайны 1648—54 паўстанцкі атрад палкоўніка Г. Бута колькасцю каля 1 тыс. чал. заняў у 1648 Свіслач. Паколькі Бут пасылаў частку людзей у Ігумен за порахам, можна меркаваць, што захоплены цэйхгауз быў невялікі. У час рус.-польскай вайны 1654—67 без вял. намаганняў «Иван Золоторенко город Свислочь взял... в сентябре 1654 г.». З таго часу ў дакументах звесткі пра С. з. больш не сустракаюцца.

*Літ.:* 1083. *М. А. Ткачоў.*

**СВІСЛАЧ,** гарадзішча *штрыхаванай керамікі культуры* і эпохі Кіеўскай Русі на ўсх. ускраіне в. Свіслач Асіповіцкага р-на. Размешчана на мысе, утвораным пры ўпадзенні р. Свіслач у Бярэзіну. Пляцоўка блізкая да трохвугольнай, памер 70×70 м, пл. 700 м², з 2 бакоў мае высокія (каля 10 м ад асновы) і стромкія схілы, з боку поля ўмацавана ровам глыб. 6,3 м, шыр. каля 22 м. Абследавалі ў 1926 С. С. Шутаў і М. М. Улашчык, даследаваў у 1962, 1969—71 Э. М. Загарульскі. У ніжнім культурным гарызонце (0,1—0,2 м) знойдзены рэчы ранняга жал. веку (6 ст. да н. э.— 1 ст. н. э.) — жал. шпілька з S-падобным завіткам, нож, шлакі, каменная зерняцёрка, фрагменты штрыхаванай керамікі. У канцы 11—14 ст. пляцоўка гарадзішча была зніверліравана, зямля ссыпана на схілы для прыдання ім большай стромкасці, расшыраны роў і ўмацаваны вал. Нягледзячы на дрэнную захаванасць арганічных рэчываў, выяўлены сляды наземных драўляных пабудоў з дашчанай падлогай. Рэшткі 3 печаў, складзеных з каменю з глінянымі чарэнямі, знаходзіліся за межамі жытлаў.

Знойдзены рэчы побыту (сякеры, нажы, фрагменты нажніц, замкі з ключамі, фрагменты долата або зубіла, іголкі, шылы, праколкі, дужкі ад вядзёр, шыферныя праслііцы, крэсівы падоўжана-авальнай формы 12 ст.), прылады працы (каса-гарбуша, матыка, сякеры, сашнікі, абломкі камянёў ад жорнаў, жал. порхліца, рыбалоўныя кручкі, восці, гарпуны, гліняныя грузілы, іголкі для пляцення сетак і інш.), зброя і рыштунак конніка (наканечнікі стрэл і коп'яў, кісцяні, пласцінка даспеха, уток кап'я, баявая сякера, цуглі з псаліямі, фрагменты шпор), вырабы з рогу і косці (наверша, арнаментаванае дзяржанне нажа, шахматная фігурка), бронзавыя ювелірныя вырабы (крыжскладзень, створкі энкалпіёна, пласцiністы бранзалет, фрагменты падвескі і бранзалета, кавалкі бронзавай або

меднай пасудзіны і інш.), шкляныя вырабы (бранзалеты, пацеркі, каралі, пярсцёнкі, фрагменты пасудзін, шкляны флакон і інш.). Прыналежнасць гарадзішча да феад. замкаў пацвярджаюць і знаходкі фрагментаў амфар.

*Літ.:* 1097, 1369. *А. М. Ваганава.*

**СВІ́ЦЯЗЬ,** стаянка эпохі мезаліту на паўн.-зах. беразе воз. Свіцязь у Навагрудскім р-не. Выявіў у 19 ст. Я. Завіша, абследавала ў 1957 Н. М. Гурына. Пл. 300—400 м². Знойдзены матэрыялы *свідэрскай культуры,* лістападобныя наканечнікі стрэл, канцавыя высокія скрабкі на пласцінах, двухпляцовачныя прызматычныя нуклеусы. Трапляюцца знаходкі эпохі неаліту.

*Літ.:* 288. *М. М. Чарняўскі.*

**СВІШЧО́ВА,** курганны могільнік дрыгавічоў каля в. Свішчова Камянецкага р-на. За 100 м на ПнУ ад вёскі, абапал дарогі Высокае — Камянец. Захавалася 20 насыпаў выш. 0,2—1,6 м, дыям. 4—8 м, іх аснова абкладзена камянямі. Мясц. назва Шведскія магілы. Адкрыў у 1937 К. Салевіч, 14 курганоў у 1959 даследаваў І. В. Біруля, 7 у 1961 — В. В. Сядоў, 2 у 1986 — Т. М. Каробушкіна (абследавала таксама ў 1980, 1985). У некаторых насыпах шчыльная вымастка з камянёў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце (8), у падкурганных ямах (13), у насыпах (2) галавой на З (у 2 курганах на У). Пахаванні ў асноўным адзіночныя, ёсць парныя (мужчына і жанчына), з попельнавугальнай падсыпкай да 30—50 см.

Знойдзены ганчарныя гаршкі (на днішчы аднаго кляймо майстра — трохзубец у коле), металічныя часткі драўлянага посуду, нажы, падкова, цуглі, прасліца з ружовага сланцу, тачыльныя брускі, металічныя пярсцёнкі, спражкі, шкляныя, залачоныя пацеркі і бронзавыя, упрыгожаныя зерню (дрыгавіцкага тыпу), скроневыя кольцы з трох такіх пацерак (да 3 штук у адным пахаванні), паўтараабаротныя і з S-падобным завітком, да аднаго кольца прымацавана пер'е птушкі.

Датуецца 11—12 ст.

*Літ.:* 131, 592, 1053а.

*Т. М. Каробушкіна.*

**СВЯЦІ́ЛАВІЧЫ,** гарадзішча *зарубінецкай культуры* ў в. Свяцілавічы Веткаўскага р-на. У цэнтры вёскі, ва ўрочышчы Гарадок, за 50 м ад моста, на высокім правым беразе р. Беседзь. Пляцоўка чатырохвугольная, памер 65×70 м, абмежавана валам выш. да 0,8 м. Роў згладжаны. Вядома з 1873, абследавалі ў пач. 20 ст. Е. Р. Раманаў, у 1975 С. М. Васільева. Культурны пласт у абрыве берага ракі каля 1,2 м, у цэнтры пляцоўкі 0,3 м. Знойдзена ляпная кераміка. Датуецца 2 ст. да н. э.— 2 ст. н. э.

За 5 км на У ад вёскі знойдзены востраканечнік (скрэбла) мусцьерскага часу. Гл. ў арт. *Чамярня.*

*Літ.:* 981, 1046. *С. М. Васільева.*

**СВЯЦІ́ЛІШЧЫ,** трэбішчы, капішчы, кумірніцы, храмы ідальскія, дахрысціянскія культавыя збудаванні, месцы маленняў і ахвярапрынашэнняў усх. славян і суседніх народаў. Былі С. радавыя, племянныя і для некалькіх суседніх плямён. Найчасцей С. прысвячаліся Перуну, на іх устанаўлівалі *ідалаў.* Размяшчаліся на ўзвышшах, астравах і мысах сярод балот, на берагах азёр і рэк, зрэдку насыпаліся штучна (круглыя ці авальныя пляцоўкі дыям. 14—30 м з прыпаднятым цэнтрам або ўпадзінай усярэдзіне). Месцам С. былі таксама камяні-*следавікі, узгоркі культавыя, крыніцы культавыя.* Ушаноўваліся свяшчэнныя дрэвы (асабліва дуб як дрэва Перуна) і гаі.

С. ўзніклі ў каменным веку. У неаліце некаторыя з іх прасочваюцца археалагічна. Да перыяду энеаліту адносіцца С. ў Сабацінаўцы (Украіна), якое ўяўляла сабой глінабітнае збудаванне пл. 70 м² з вялікай печчу, алтаром і гліняным «рагатым тронам». Да сярэдняга перыяду эпохі бронзы належаць 2 С. ў Пустынцы (Украіна, на З ад Чарнігава), пакінутыя насельніцтвам *тшцінецкай культуры.* Адно драўлянае С. мела форму ратонды і было звязана з аграрнай магіяй. Равок унутры ратонды быў запоўнены абломкамі мноства зерняцёрак, попелам і дробнымі кальцыніраванымі касцямі. Знойдзена пасудзіна з адбіткам зярнят і крамянёвы серп. Другое С.— паўзямлянка з гліняным ахвярнікам у цэнтры. Меліся 2 агнішчы і ямкі-пахаванні з касцямі ахвярных жывёл; мяркуецца, што тут стаялі ідалы. Верагодна, што С. такога тыпу існавалі на Пд Беларусі. На Украіне помнікамі абшчыннага культу асобных паселішчаў былі т. зв. попельнікі, якія датуюцца 11—13 ст. да н. э. Найб. ранвія з іх узніклі ў белагрудаўскай культуры, насыпаліся і ў скіфскія часы. Попельнікі былі рэшткамі рытуальных вогнішчаў у гонар бога сонца. У раннім жал. веку на гарадзішчах Украіны былі і глінабітныя ахвярнікі. С. *зарубінецкай культуры* вядомы па раскопках селішча Грудок (Бранская вобл.). Гэта круглая ў плане пабудова дыям. 5 м. Знойдзена егіпецкая пячатка 1—3 ст. н. э. з блакітнай пасты, на ёй выява льва. Побач з круглай знаходзілася яшчэ адна пабудова, у якой выяўлены посуд з магічнымі знакамі, прысвечанымі аграрнаму культу. Паводле меркавання Б. А. Рыбакова, у ёй захоўваўся свяшчэнны посуд, а ў круглым памяшканні адбываліся цырымоніі прыгатавання свяшчэннага варыва. У цэнтры С. быў круглы глінабітны ахвярнік-агнішча. Каля яго стаялі драўляныя ідалы: вялікі і 2 меншыя. У цэнтры канічнага даху шырокая дымавая адтуліна. Мяркуецца, што гэта С. было прысвечана Макошы, якую ў дачыненні да купальскай абраднасці называлі Купалай. 2 меншыя ідалы ўвасаблялі Ладу і Лёлю. На гарадзішчы-сховішчы Тушамля (Смаленская вобл.) у 2-й чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. мелася С. ў выглядзе круглай пляцоўкі дыям. 6 м, абкружанай слупамі, што стаялі з інтэрвалам 20—35 см. У цэнтры агароджы стаяў драўляны ідал гал. бажаства. Захаваліся таксама свяцілішчы 5—7 ст. часоў *банцараўскай культуры* (Смаленская вобл.). У 8—12 ст. былі пашыраны гарадзішчы-свяцілішчы. Найб. вядомае з даследаваных на ўсх.-слав. землях С. на гары Богіт каля р. Збруч (Украіна).

На Беларусі найб. канцэнтрацыя С. наглядаецца ў паласе галоўнага Еўрапейскага водападзелу. Пра наяўнасць тут С. сведчаць тапонімы Святое возера, Красная гара, Божая горка, Валова гара, Турава гара, Перунова гара, Святы камень, Дажбогаў камень, Змееў камень і інш. Верагодна, што распаўсюджаныя легенды пра ўзгоркі, на якіх стаялі цэрквы або касцёлы, што праваліліся пад зямлю, указваюць на існаванне ў тых месцах дахрысціянскіх культавых аб'ектаў. Захаваліся легенды пра язычніцкія месцы паклanення на гарадзішчах Войстам (Смаргонскі р-н), Хоўхлава (Маладзечанскі р-н), *Свір* (Мядзельскі р-н), ахвярнікаў *Лоск* (Валожынскі р-н), каля в. Рудобелка (Акцябрскі р-н) і інш. Можна меркаваць. што існавала С. (капішча) на месцы пазнейшай царквы ў г. Крычаў. Паводле падання, запісанага ў сярэдзіне 19 ст., каля Валова воз., што на ўскраіне Полацка, знаходзіліся С. (капішчы) Перуна і Бабы Ягі. Паводле археал. і этнаграфічных даных можна меркаваць, што С. існавалі каля вёсак Бікульнічы і Турэц-2 Полацкага, *Хільчыцы* Жыткавіцкага, Радагошча Навагрудскага. Кіявец Крупскага, Лапухова Слонімскага р-наў, г. Косава (урочышча Мерачоўшчына) Івацэвіцкага р-на. на востраве Богінскага возера ў Браслаўскім р-не і інш. Найбольш даследаваны С.: *«Дзявочая гара». Верхаўлянскае свяцілішча, Крамянецкае свяцілішча, Гудавіцкае свяцілішча, Ходасавіцкае свяцілішча.* Пасля прыняцця хрысціянства многія С. былі прыстасаваны да патрэб царквы і набылі функцыі *прошчаў.* у сувязі з чым частка іх у рэліктавай форме захавалася да 20 ст.

*Літ.:* 627, 1014, 1015, 1052.

*Э. М. Зайкоўскі, Л. У. Дучыц. Э. А. Ляўко*

**СЕВЯРА́НЕ,** назва ўсх.-слав. плямён, якія ў канцы 1-га тысячагоддзя н. э. жылі ў басейнах Дзясны Сейма, Сулы, Ворсклы, Псла. Паўн. Данца. Межавалі на З з палянамі і *дрыгавічамі,* на Пн з *радзімічамі* і *вяцічамі,* на У і Пд з качавымі плямёнамі. Для 8—10 ст. характэрны помнікі валынцаўскага тыпу і *роменска-боршаўскай культуры:* бескурганныя і курганныя могільнікі з трупаспаленнем, гарадзішчы і селішчы з ляпной і ганчарнай керамікай, для канца 10—12 ст.— курганныя могільнікі з трупапалажэннем на гарызонце галавой на З. Характэрныя племянныя адзнакі — спіралепадобныя і прамянёвыя скроневыя кольцы, пласціністыя галаўныя венчыкі. У 8 — пач. 9 ст. плацілі дань хазарам. У канцы 9 ст. заходнія С. разам з палянамі ўвайшлі ў склад Кіеўскай Русі, усходнія С. захоўвал

адносную аўтаномію да канца 10 ст. У 11—12 ст. С. склалі значную частку насельніцтва Чарнігаўскай зямлі. У 907 удзельнічалі ў паходзе Алега на Візантыю. Упамінаюцца ў «Аповесці мінулых гадоў» пад 884, 885, апошні раз пад 1024. Найб. гарады Чарнігаў, Ноўгарад-Северскі, Сноўск, Пуціўль, Курск і інш.

*Літ.:* 1009, 1042, 1052.

*А. А. Макушнікаў.*

**СЕ́ЛІШЧА,** археал. тэрмін, які выкарыстоўваецца для абазначэння рэштак стараж. неўмацаванага паселішча. Гэты тэрмін шырока ўжываецца ў стараж. летапісах у сэнсе сяло, вёска. Як правіла, С. не маюць знешніх прыкмет (равоў, валоў), што стварае цяжкасці пры іх пошуку. Гэта адна з прычын, што С. вядома значна менш, чым *гарадзішчаў.* Выяўляюцца па наяўнасці культурнага пласта і знаходак. Найчасцей узнікалі на роўных мясцінах каля рэк і азёр. Жытлы звычайна драўляныя, чатырохвугольныя дамы размяшчаліся радамі, але сустракаецца і кучная забудова без бачнага парадку. У найб. ранніх жытлах вогнішчы мелі круглую ці авальную форму, былі паглыблены ў падлогу. Некаторыя С. агароджаны плятнямі. На Беларусі С. вядомы з эпохі бронзы. У ранні жал. веку насельніцтва жыло пераважна (акрамя Пд) на гарадзішчах. Новая хваля пашырэння С. пачалася з першых стагоддзяў н. э., асабліва ў 4—5 ст. Шмат захавалася С. ад раннефеад. часу (9—13 ст.). На тэр. Беларусі зафіксавана некалькі соцень С.

*В. І. Шадыра.*

**СЕ́ЛІШЧА,** курганны могільнік крывічоў каля в. Селішча Ушацкага р-на. На паўд.-ўсх. ускраіне вёскі, каля могілак. Мясц. назва Валатоўкі, Французскія, або Напалеонаўскія,магілы. 55 круглых у плане насыпаў выш. 0,4—3 м, дыям. 4—12 м. Вакол большасці насыпаў ёсць раўкі і перамычкі. Выявіў у 1928 І. А. Сербаў, абследавалі ў 1972 А. Г. Калечыц, у 1981 А. А. Егарэйчанка. Даследавала 16 кургапоў у 1990 Л. У. Дучыц. Пахавальныя абрады — трупаспаленне на грунце (2), у насыпе (1) і трупапалажэнне на гарызонце (1) і ў ямах на глыб. 0,5—1 м (8). Нябожчыкаў клалі галавой на З, у некаторых выпадках з нязначнымі адхіленнямі на ПнЗ і ПдЗ. Большасць пахаванняў жаночыя, у адным кургане пахаваны разам хлопчык і дзяўчынка. Амаль ва ўсіх курганах выяўлены ляпны і ганчарны посуд, у большасці — нажы каля тазавых касцей, зрэдку ў галавах.

Знойдзены бранзалетападобныя скроневыя кольцы, бразготкі, падковападобная фібула, бранзалет з зааморфнымі канцамі і віты бранзалет з завязанымі канцамі, фрагменты бронзавых, сярэбраных і алавяных галаўных упрыгожанняў. У некаторых пахаваннях захаваліся рэшткі льняных тканін. Знойдзены шкляныя пацеркі (бісерныя, лімонкі, рабрыстыя, вочкападобныя, сярэбрана-шкляныя, золата-шкляныя) і з яшмы; у двух пахаваннях каралі складаліся больш як з 200 пацерак.

Датуецца 10—11 ст. *Л. У. Дучыц.*

**СЕ́ЛІШЧА,** гарадзішча ранняга жал. веку каля в. Селішча Чавускага р-на. За 1,5 км на Пн ад вёскі, на правым беразе р. Бася, за 100 м ад яе русла. Мясц. назвы Гарадок, Лысая Гара. Пляцоўка чатырохвугольная, памер 50×45 м, выш. над падножжам 11—18 м, над узроўнем вады ў рацэ 22—29 м. З боку поля ўмацавана валам выш. да 3 м і ровам, прасочваюцца дадатковыя аплыўшыя валы. Выявілі ў 1982 В. Ф. Капыцін і В. Я. Мядзведскі, даследаваў 54 м² у 1986 А. А. Седзін. Выяўлена пляцоўка, выкладзеная камянямі, памер 3,5×2 м, у мацерыку 19 авальных і круглаватых ям.

У культурным пласце знойдзены бронзавыя вітое кольца і трапецападобная падвеска, фрагменты ляпнога (гладкасценнага, пакрытага штрыхоўкай і з зашчыпамі на венчыках) і ганчарнага посуду з утрыманнем жарствы, косці бабра і хатніх жывёл.

Датуецца 1-м тысячагоддзем н. э.

*А. А. Седзін.*



Сем рублёў пяцьдзесят капеек 1897.



А. М. Семянтоўскі.

**СЕМ РУБЛЁЎ ПЯЦЬДЗЕСЯ́Т КАПЕ́ЕК,** залатая манета Расійскай імперыі (*залатніковая проба* 86 ²/₅, *лігатурная маса* 6,45 г), выпушчаная паводле *грашовай рэформы Вітэ.* Адзнака наміналу — **7 рублей 50 копѣекъ.** Выпускаў у 1897 Пецярбургскі манетны двор (адзнакі двара гл. ў арт. *Манетныя двары Расійскай дзяржавы).*

*Літ.:* 1615. 1620.

**СЕМЯНТО́ЎСКІ** (Семянтоўскі-Курыла) Аляксандр Максімавіч (1821, Палтаўшчына — 1893), беларускі і рус. археолаг, краязнавец, этнограф, фальклартыст. Скончыў Нежынскі ліцэй (1840). Быў на ваеннай службе, потым ляснічым. На Беларусі пасяліўся напярэдадні паўстання 1863—64. Лічыўся даверанай асобай царскай адміністрацыі. У 1860—62 сакратар Віцебскага губернскага статыстычнага к-та, рэдактар неафіцыйнай часткі «Витебских губернских ведомостей», пазней рэдактар «Памятной книжки Витебской губернии». З 1882 жыў у сваім маёнтку Ражаншчына пад Полацкам. Займаўся этнаграфіяй, гісторыяй, геаграфіяй Беларусі, пераважна Віцебшчыны. Па просьбе Пецярбургскай АН выяўляў і вывучаў помнікі археалогіі. Асабіста раскопкамі не займаўся, але сачыў за даследаваннямі бел. археолагаў. Шэраг навук. прац прысвяціў Беларусі. Апісаў гісторыю Віцебскай губ., *Барысавы камяні,* Віцебскую Благавешчанскую царкву, Полацкі Сафійскі сабор, сабор у Бельчыцах, стараж. помнікі, археал. знаходкі, крыж Лазара Богшы і інш. Сабраў звесткі пра 30 замкаў і замчышчаў Віцебшчыны, больш як пра 1200 земляных насыпаў. Вёў улік помнікаў па кожным павеце і фіксаваў іх на археал. карце Віцебскай губ. Упершыню правёў класіфікацыю археал. аб'ектаў паводле іх прызначэння. На карту Віцебскай губ. нанёс этнічнае рассяленне ў краі. У манаграфіі змясціў 106 малюнкаў аб'ектаў старажытнасцей. Запісваў фальклор, творы ананімнага паходжання. Апублікаваў першае «Статыстычнае апісанне Віцебскай губерні ў лясных адносінах» (1862). У пытаннях этнагенезу беларусаў прытрымліваўся афіцыйнай вялікадзяржаўнай думкі, хоць і прызнаваў іх адметнасць.

*Тв.:* Памятники старины Витебской губернии. Спб., 1867; Этнографический обзор Витебской губернии. Спб., 1872; Белорусские древности. Вып. 1. Спб., 1890.

*Літ.:* 518. *Г. А. Каханоўскі.*

**СЕ́НІЦА,** курганны могільнік дрыгавічоў (зараз у межах Мінска) каля в. Сеніца. Захавалася 12 насыпаў (было 27) выш. 2 м, дыям. 8—10 м. Адкрыў у 1892 Г. Х. Татур, даследавалі ў 1929 А. Рынейскі, у 1974 археал. экспедыцыя БДУ, абследаваў у 1977 В. Е. Собаль. Пахавальны абрад — трупапалажэнне.

Знойдзены бронзавыя бочачкападоб-

ныя буйназярнёныя філігранныя пацеркі, драцяны пярсцёнак, падвеска, фрагменты ганчарнага посуду з хвалістым арнаментам і з стараж.-рус. клеймамі на дне.

Датуецца 11—13 ст.

*Літ.:* 1160.

**СЕ́НЬКАВА,** гарадзішча каля в. Сенькава Горацкага р-на. За 500 м на ПдУ ад вёскі, на левым беразе р. Проня, ва ўрочышчы Батарэя. Пляцоўка авальная, памер 52×45 м, выш. над узроўнем ракі 15 м, умацавана 2 валамі выш. 0,5—1 м, равамі. Адкрыў у 1963 і абследаваў Л. Д. Побаль, у 1977 — В. І. Шадыра. У шурфах прасочаны культурны пласт 0,5 м, знойдзена перамяшанае з глінай вуголле. Гарадзішча можа разглядацца як цэнтр аднаго з родаў плямён мілаградскай і зарубінецкай культур.




**Сярпы:** крамянёвыя з бакавой выемкай 2-га тысячагоддзя да н. э. з паселішча Камень Пінскага р-на (1—2); жалезныя 5—7 ст. з гарадзішча Пруднікі Міёрскага р-на (3—4); жалезны 12 ст. з курганнага могільніка Панюшкавічы Бабруйскага р-на (5).



Гарадзішча **Сенькава.** 1963.

**СЕ́РБАЎ** Ісак Абрамавіч [13(25).5.1871, в. Кульшычы Быхаўскага пав., цяпер Слаўгарадскага р-на — 21.1.1943], беларускі этнограф, фалькларыст, археолаг. Праўдзейны член Інбелкульта (1922). Канд. гіст. навук (1934). Скончыў Полацкую настаўніцкую семінарыю (1892), Маскоўскі археал. ін-т (1918). Працаваў настаўнікам у Мінску, Гомелі, Вільні, Троках, Хоцімску, Стоўбцах. У 1910—12 як член Паўн.-Зах. аддзела Рус. геаграфічнага т-ва наладзіў шэраг экспедыцый па Беларусі. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі загадчык аддзела нар. асветы ў г. Сальцы Наўгародскай губ., у 1919—21 працаваў у аддзелах нар. асветы Магілёўскай і Гомельскай губ., удзельнічаў у рабоце па зборы і ахове помнікаў мастацтва і гісторыі. З 1923 выкладчык, загадчык кафедры этнаграфіі БДУ. Супрацоўнік камісій (гіст.-археал. і па ахове помнікаў старажытнасці), з 1925 сакратар секцыі этнаграфіі Інбелкульта. З 1929 вучоны сакратар кафедры этнаграфіі БДУ, старшы навук. супрацоўнік секцыі этнаграфіі і фальклору Ін-та гісторыі АН БССР. У Айчынную вайну выкладчык Тамбоўскага педагагічнага ін-та. З 1900 вывучаў побыт, матэрыяльную культуру, вусную паэтычную і музычную творчасць бел. народа. Сабраў багатыя калекцыі нар. адзення і мастацтва, на аснове якіх выдадзены альбом «Беларускае народнае мастацтва» (1951). Першы з бел. этнографаў стварыў вял. фотатэку (каля 5 тыс. фотаздымкаў), у якой зафіксаваны тыпы адзення жыхароў розных куткоў Палесся, жылля, гасп. пабудоў, вырабы рамёстваў і інш. Сабраныя этнаграфічныя матэрыялы і назіранні абагульніў у працах «Сяло Вялікае: Малюнкі з жыцця Беларусі» (1910), «Паездкі па Палессі 1911 і 1912 гг.» (1914), «Беларусы-сакуны» (1915). У 1924—25 у час працы ў навук.-экспертнай камісіі Наркамасветы БССР склаў апытальны ліст пра помнікі археалогіі, стварыў картачны каталог і карты археал. помнікаў. У 2-й пал. 1920-х г. правёў раскопкі грунтавога могільніка калочынскай культуры 5—8 ст. н. э. каля Новага Быхава; даследаваў курганы дрыгавічоў (каля Мінска і Мазыра), радзімічаў (каля Новага Быхава, у басейнах рэк Проні і Ухлясці), крывічоў (па р. Ушачы). Вывучыў каля 100 насыпаў, абследаваў і апісаў больш за 30 гарадзішчаў, селішчаў і стаянак.

*Тв.:* Археалагічныя раскопкі ў аколіцах Менску ў 1925 годзе. Мн., 1927; Археалагічныя помнікі Ушацкага раёна Полацкай акругі // Запіскі аддзела гуманітарных навук БАН. Мн., 1930. Кн. 11. Працы археалагічнай камісіі, т. 2; Археалагічныя абследаванні ў вадазборах рэк Проні—Ухлясці ў был. Магілёўшчыне // Працы секцыі археалогіі Ін-та гісторыі БАН. Мн., 1932. Т. 3.

*В. С. Вяргей.*



**Сярпы** мілаградскай культуры з гарадзішча Гарошкаў.

**СЕРП,** рэжучая прылада для жніва збожжавых культур. Паявіўся з узнікненнем земляробства ў развітым неаліце. У 5—4-м тысячагоддзях да н. э. С. былі складнымі, іх рабілі з некалькіх крамянёвых пласцін. Пазней яны былі ўдасканалены і з 3-га тысячагоддзя да н. э. сталі суцэльнымі — выраблялiся з адной пласціны. У эпоху неаліту і бронзавым веку С. былі даўж. 5—16 см, шыр. 2—5 см. З 7—6 ст. да н. э. на Пд тэр. Беларусі С. сталі вырабляць з жалеза.

Так, на гарадзішчы *Гарошкаў* Рэчыцкага р-на ў скарбе с.-г. прылад працы, які датуецца 4—3 ст. да н. э., знойдзены 3 жалезныя С. На Пн і ў цэнтры Беларусі, дзе жалеза сталі апрацоўваць пазней, жалезныя С. адносяцца да 4—1 ст. да н. э. (гарадзішча *Банцараўшчына*). С. 10—13 ст. вызначаюцца дасканаласцю форм, больш за ўсё іх знойдзена пры раскопках гарадоў (Мінск — 18, Брэст — 10, Гродна — 5, Ваўкавыск — 3, Тураў, Навагрудак, Давыд-Гарадок — па 2 экз., Пінск, Друцк, Чачэрск — па 1 экз.); 14 экз. знойдзена пры раскопках сельскіх паселішчаў і курганоў. Іх даўж. 19—33 см, шыр. 4—15 см. Выраблялі С. або цалкам з жалеза і сталі, або ўвесь С. з жалеза, а лязо — са сталі (найб. пашыраны метад). Удасканаленыя формы С. паявілі-

ся адначасова ў гарадах і сельскай мясцовасці. Так, на паселішчы *Хатомель* Столінскага р-на знойдзены С. 10 ст., аналагі якому вядомы ў 11—12 ст. у Мінску, Ваўкавыску, Навагрудку і інш. У Гродне ў жытле 11—12 ст., якое загінула ад пажару, сярод скарбу с.-г. прылад выяўлены тры С., у Полацку знойдзены С. 11 ст., які ў складным выглядзе можна было насіць на поясе. Многія С. мелі насечкі на лязе, што паказвалі іх вытворчыя ўласцівасці. На рубяжы 1-га і 2-га тысячагоддзяў н. э. на тэр. Беларусі вядомы С. самых удасканаленых форм, якія без істотных змен праіснавалі да 19—20 ст.

*Літ.:* 582, 772, 785, 847, 848.

*Т. М. Каробушкіна.*

**СЕСТЭ́РЦЫЙ** (ад лац. sestertius два з паловай), сярэбраная і медная манета, а таксама грашова-лікавае паняцце Стараж. Рыма.

С я р э б р а н ы С. чаканіўся з 269 да н. э. каля 50 гадоў (*лігатурная маса* 17136 г). На *аверсе* — профільная ўправа выява галавы багіні Ромы; на *рэверсе* — Дыаскуры (сыны Зеўса і Леды) на конях, у *абрэзе манеты* — **roma**; адзнака наміналу — IIs (2 $^1/_2$ аса, ас — спачатку $^1/_{10}$, з 217 да н. э. $^1/_{16}$ *дэнарыя*). У 89 да н. э. аднавіўся выпуск С., парытэтнага 4 асам, без адзнак наміналу. Пасля 43 да н. э. чаканка спынена канчаткова. М е д н ы С. (маса 27,28 г) упершыню выпушчаны трыумвірам Маркам Антоніем [43—30 да н. э.]. Падвойная адзнака наміналу — HS і Δ (4 аса). С.=4 асам=$^1/_4$ дэнарыя=$^1/_{100}$ *аўрэуса*. Сістэматычная эмісія пачата пры Аўгусце [27 да н. э.— 14 н. э.], які перадаў права чаканкі ў медзі сенату. З 1 ст. на аверсе — профільны ўправа партрэт імператара; на рэверсе — алегарычная фігура або інш. выява, па яе баках або ў абрэзе манеты — літары **s**[enatus] **c**[onsulto] — паводле рашэння сената; легенды кругавыя. Апошнія С. выпушчаны пры Валерыяне [253—260], Галіене [253—268] і Постуме [258—268]. На Беларусі выяўлены медныя С.

*Літ.:* 1538, 1542. *В. Н. Рабцэвіч.*

**СІГНЕ́Т,** залаты ці сярэбраны пярсцёнак з пячаткай, які насілі прадстаўнікі бел. шляхты, магнаты, вышэйшае духавенства; своеасаблівае пасведчанне асобы. Гербавы С. насілі на ўказальным пальцы правай рукі. Каралі і магнаты мелі пярсцёнкі са сваімі партрэтамі. Згадваецца ў стараж. інвентарах і актах.

**СІЗО́Ў** Уладзімір Ільіч [1840, Масква — 19.10(1.11).1904], рускі археолаг. Скончыў Маскоўскі ун-т (1865). Адзін з заснавальнікаў Маскоўскага гіст. музея, вучоны сакратар музея (1881—1904). Даследаваў у асноўным славяна-рускія старажытнасці. У 1890 праводзіў раскопкі курганоў каля вёсак Іпалітаўка (Нова-Бяляеўка) на Гомельшчыне, *Чырвоная Слабада* і Туравічы на Магілёўшчыне. Вынікі даследаванняў радзіміцкіх курганоў абагульніў у арт. «Аб паходжанні і характары курганных скроневых кольцаў і пераважна так званага маскоўскага тыпу» (1895). У канцы 1890-х г. у вярхоўях Дняпра адкрыў доўгія курганы. У 1902 першы з археолагаў на аснове матэрыялаў з раскопак Гнёздаўскіх курганоў выступіў супраць «нарманскай» тэорыі.

*Тв.:* [Отчёт о раскопках в Смоленской и Могилёвской губерниях в 1890 г.] // Древности: Тр. Московского археологического о-ва. М., 1894. Т. 15, вып. 2; Курганы Смоленской губернии. Вып. 1. Спб., 1902.

*Літ.:* 69. *У. У. Багамольнікаў.*

**СІМАНАВІЧЫ,** група археал. помнікаў каля в. Сіманавічы Глускага р-на.

С е л і ш ч а - 1. На ўсх. ускраіне вёскі, ва ўрочышчы Цямшава Поле, на 1-й тэрасе правага берага р. Пціч. На ПнУ абмежавана ручаём. Выявіў 80 $м^2$ у 1987 Н. М. Дубіцкая. Культурны пласт 0,2—0,7 м. У раскопе выяўлена нагрувашчванне камянёў, магчыма, рэшткі агнішча; відавочна, тут была наземная пабудова. Выяўлены ляпны посуд, упрыгожаны расчосамі, гліняныя праслíцы. На падставе археал. даследаванняў устаноўлена, што жыццё на селішчы пачалося ў 2-й чвэрці 1-га тысячагоддзя і працягвалася ў 3-й чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. Наступныя этапы існавання паселішча звязаны з 11—12 і 14—16 ст.




**Сестэрцый.** Р ы м с к а я і м п е р ы я: 1. Веспасіян [69—79]; 2. Даміцыян [81—96]; 3. Антанін Пій [138—161]; 4. Комад [180—192]; Элагабал [218—222]; 6. Постум [258—268].

у 1930 А. Рынейскі, абследаваў у 1964 Л. Д. Побаль, даследавала

Аднак у гэтыя перыяды паселішча перамясцілася ў паўн. напрамку

(сучаснае ўрочышча Селішча).

Селішча-2. Ва ўрочышчы Селішча, на ўсх. ускраіне вёскі, на Пн ад урочышча Цямшава Поле, на 1-й тэрасе правага берага р. Пціч. У 1964 абследаваў Побаль, у 1987 16 м² даследавала Дубіцкая. Паселішча функцыяніравала ў асноўным у 14—16 ст. Аднак наяўнасць фрагментаў раннеганчарнага і ляпнога посуду не выключае, што жыццё тут было ў 11—12 ст., нават, магчыма, у 3-й чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э.

Бескурганны могільнік. На Пн ад селішча-1. Ва ўрочышчы Цямшава Поле, на левым беразе ручая. Выявіў Рынейскі, у 1964 Побаль сабраў кальцыніраваныя косці і ляпную кераміку 2-й пал. 1-га тысячагоддзя н. э. У 1987 даследавала Дубіцкая. Дадаткова сабраны кальцыніраваныя косці, абломкі ляпных пасудзін, крамянёвы наканечнік эпохі бронзы і адшчэпы. *Н. М. Дубіцкая.*

**СІНЧУКІ́,** курганны могільнік 10 — пач. 11 ст. каля в. Сінчукі Талачынскага р-на. За 500 м на У ад гарадзішча стараж. Друцка, на левым беразе р. Друць. У 1873 было 48 насыпаў выш. 1—2 м, дыям. 7—10 м. Абследавалі ў 1929 А. Дз. Каваленя, у 1972 А. Р. Мітрафанаў, у 1981 В. М. Ляўко. У 1961—62 Л. В. Аляксееў раскапаў 3 курганы (з 8, якія захаваліся на той час). У адным кургане знаходак не выяўлена. У 2 курганах пахаванні па абраду трупаспалення. У адным з іх выяўлена пахаванне на падсыпцы таўшч. 0,6 м, 6 ганчарных урн, запоўненых дробнымі кальцыніраванымі касцямі чалавека. Напачатку пасудзіны размяшчаліся вертыкальна ўнутры драўлянага зруба (0,7×0,7 м), складзенага з бярвён у адзін вянок. За 1,3 м на У ад зруба на тым жа ўзроўні знойдзена яшчэ адна пасудзіна — гаршчок. У другім кургане ў попельна-вугальным слоі выяўлены 2 сканцэнтраванні касцей: на глыб. 0,4 м ад паверхні разам з раздушанай ганчарнай пасудзінай і на глыб. 0,7—0,75 м з 2 цэлымі гаршкамі, фрагментамі 3 інш. пасудзін. Тут жа знойдзены 2 фрагменты жал. скроневых кольцаў, пацеркі. Абодва пахаванні былі на пляцоўках з абпаленай гліны таўшч. 4 см. Могільнік знішчаны ў 1978—79 пры меліярацыйных работах.

*Літ.:* 52, 471, 1046. *В. М. Ляўко.*

**СІСТЭ́МНЫ АНА́ЛІЗ** у археалогіі, метад навук. даследавання складаных аб'ектаў і сістэм, аб'яднаных пэўнымі сувязямі. Метадалогія археалогіі і гіст. навук зыходзіць з таго, што ўсе кампаненты аб'екта даследавання знаходзяцца ў адпаведным адзінстве, узаемадзеянні і развіцці, уваходзяць у гістарычна абумоўленую сістэму. Гэта патрабуе вывучэння аб'екта як цэласнага комплексу з улікам уласцівасцей усіх яго элементаў.

У працэсе С. а. вылучаюцца найважнейшыя і другарадныя элементы, гал. і нязначныя ўласцівасці, ацэньваюцца існуючыя паміж імі сувязі, вызначаецца сістэмаўтвараючы фактар, асноўная гіст. сувязь, падсістэмы і ўзаемадзеянні ўнутры іх. Адвольна змяняючы значэнне фактараў і сувязей, даследчык можа высвятліць (прагназіраваць) магчымую дынаміку сістэмы, дыялектыку яе развіцця да ўтварэння альтэрнатывы. Потым рэчаіснасць ацэньваецца ў святле атрыманых фактаў. Асновай гіст. развіцця кожнага грамадства, як вядома, з'яўляюцца вытворчыя сілы. Яны патрабуюць адпаведных вытворчых адносін паміж людзьмі і выконваюць ролю базісу для надбудовы, у якую ў якасці падсістэмы ўваходзіць і культура. У экалагічную сістэму ўваходзяць чалавек і навакольная прырода. Пры С. а. (з дапамогай ЭВМ) спачатку вылучаюць аб'ект даследавання (пэўную частку матэрыяльнай культуры) і ставяць мэту, выяўляюць у аб'екце асн. элементы, якія складаюць адпаведную сістэму, акрэсліваюць яе межы, структуры, параметры, узаемадзеянні паміж элементамі і з навакольным асяроддзем, складаюць мадэль, вызначаюць аптымальныя, экстрэмальныя і інш. ўмовы яе функцыяніравання, існаванне такіх умоў у мінулым. У наш час С. а. з'яўляецца асн. метадалагічным кірункам у археалогіі. Некаторыя замежныя даследчыкі лічаць яго новай усеагульнай метадалогіяй, проціпастаўляюць дыялектычнаму метаду.

*Літ.:* 539. *У. Ф. Ісаенка.*

**СКАВЫ́ШКІ,** курганны могільнік каля в. Скавышкі Талачынскага р-на. На паўн. ускраіне вёскі, частка курганоў на тэр. сучасных могілак. 46 насыпаў выш. 0,5—2 м, дыям. 5—10 м, добрай захаванасці (некаторыя пашкоджаны аматарскімі раскопкамі). Абследавалі ў 1959 Л. В. Аляксееў, у 1972 А. Р. Мітрафанаў, у 1973 тры курганы раскапала З. М. Сяргеева. Адзін насып быў пусты, у другім — рэшткі нябожчыка, арыентаванага галавой на З (абрад трупапалажэнне), у трэцім — пахаванне па абраду трупаспалення.

Знойдзены фрагменты ганчарнага посуду, 5 пярсцёнкападобных скроневых кольцаў, ажурная металічная пацерка, невялікі нож.

Датуецца 10—11 ст.

*Літ.:* 34. *В. М. Ляўко.*

**СКАЛО́ТЫ,** саманазва прычарнаморскіх *скіфаў* паводле грэчаскага гісторыка Герадота (5 ст. да н. э.). На скіфскай мове гэта слова азначае «цар», «уладар». Некаторыя сучасныя гісторыкі гэтую назву звязваюць з адным са славянскіх плямён і адносяць пісьмовыя звесткі пра іх да сярэдзіны 1-га тыс. да н. э.

*Літ.:* 648.

**СКАРБ МАНЕ́ТНЫ,** грашовая сума ў выглядзе манет, выключаных з абарачэння і ўхаваных у тайніку (часцей у зямлі). У мінулым звычайны спосаб захавання грошай, якім карысталіся найчасцей у часы грамадзянскіх узрушэнняў (аблог, міжусобіц, паўстанняў і інш.). Звесткі пра С. м. ёсць у крыніцах антычнасці, сярэднявечча і новага часу. Пра іх апавядаюць Арыстафан, Ксенафонт, Платон, Арыстоцель (5—4 ст. да н. э.), Гарацый (1 ст. н. э.), Лукіян, Плутарх, Эліян (2—3 ст.), Евангелле (2 ст.) і інш. У страж.-рус. пісьмовых крыніцах пра таемныя С. м. расказваецца ў «Аповесці пра хрышчэнне Уладзіміра» (11 ст.), «Павучанні Уладзіміра Манамаха» (каля 1117), «Кіева-Пячэрскім пацерыку» (13—15 ст.). С. м. — адзін з найб. распаўсюджаных фальклорных сюжэтаў. Вядомы са старажытнасці, становяцца аб'ектам дзярж. заканадаўства. Паводле Статута 1566 ВКЛ, С. м. знойдзены на сваёй зямлі, належаў таму, хто яго знайшоў, не на сваёй — пароўну дзяліўся паміж землеўладальнікам і тым, хто яго знайшоў; знойдзены свядома С. м. на чужой зямлі належаў таксама землеўладальніку; палавіна С. м., знойдзенага на закладзенай зямлі, належала таму, хто знайшоў, другая палавіна дзялілася паміж землеўладальнікам і ўласнікам, які ўзяў зямлю пад заклад. Паводле норм польскай юрыспрудэнцыі 16 ст. С. м. належаў гаспадару зямлі, а памеры ўзнагароды вызначаў землеўладальнік або судовыя органы. У Расіі да 1917 уладальнікам С. м. прызнаваўся землеўладальнік, у СССР — дзяржава.

С. м. — гістарычны помнік, які дае магчымасць вызначыць склад сучаснага яму грашовага абарачэння, уяўленне аб грашовых вагавых сістэмах дзяржаў (эмісіях манет, метралагічных і якасных прапорцыях паміж наміналамі ў межах кожнай т. зв. нацыянальнай групы, суадносінах паміж аднолькавымі і рознымі наміналамі гэтых груп). Даследы С. м. пачынаюцца з вызначэння яго ўтрымання і даты ўхавання, якая заснавана на часе эмісіі малодшых манет. Нагляднае ўяўленне пра заканамернасці і інтэнсіўнасць грашовага і таварнага абарачэнняў, узровень развіцця і асн. кірункі эканам., палітычных і культурных сувязей дзяржавы ў мінулым дае не адзін або некалькі знойдзеных С. м., а метад даследавання, заснаваны на аналізе шматлікіх С. м. у спалучэнні з данымі іх тапаграфавання і данымі сучасных ім пісьмовых крыніц. На Беларусі выяўлена больш за 1 тыс. С. м., спіс якіх пададзены ў арт. *Манетныя скарбы.* Першы навукова зарэгістраваны на Беларусі *Пінскі манетны скарб* знойдзены ў 1804.

*Літ.:* 581, 1539, 1582, 1615. *В. Н. Рабцэвіч.*

**СКА́РБЕЦ,** скарбніца, асобны будынак або спецыяльна абсталяванае месца ў ім для захоўвання грошай, архіваў і інш. каштоўнасцей. Дзяржаўны С. Польшчы з 1320 да 1795 знаходзіўся ў замку Вавель (Кракаў), ВКЛ — у Віленскім замку. Каб узяць каштоўнасці з дзяржаўных С., патрэбна была

спец. пастанова сойма. Вялікія падскарбіі маглі наведваць С. толькі ў прысутнасці 7 асоб, кожная з якіх мела асобны ключ. С. былі таксама ва ўладаннях свецкіх і духоўных магнатаў, пры гар. ратушах.

*Літ.:* 1428.

**СКАРБНІК,** службовая асоба пры дварах, ваяводствах і паветах ВКЛ, Польшчы і Рэчы Паспалітай. У распараджэнні С. знаходзіліся фінансавая дакументацыя, складанне інвентароў зямельных уладанняў, якія падлягалі падатковаму абкладанню, кантроль збору падаткаў на месцах.

**СКЕМА,** паселішча эпохі неаліту, бронзавага і ранняга жал. вякоў каля в. Мікольцы Мядзельскага р-на. За 2 км на Пд ад вёскі, на пясчаным узвышшы каля паўд. берага р. Скема і зах. берага воз. Мястра. Даследаваў у 1964, 1965, 1971, 1980, 1981, 1986 М. М. Чарняўскі (ускрыта 250 м$^2$). Культурны пласт таўшч. да 0,6 м. Знойдзены рэшткі агнішчаў, паўзямлянак, сляды збудаванняў слупавой канструкцыі.

Першымі пасяленцамі тут былі носьбіты *нарвенскай культуры* (4-е — 1-я пал. 3-га тысячагоддзя да н. э.), якія пакінулі пасля сябе кераміку з порыстымі сценкамі. З сярэдзіны 3-га тысячагоддзя да н. э. сюды пранікае насельніцтва *тыповай грабеньчата-ямкавай керамікі культуры*. Яно змяшалася з тутэйшым насельніцтвам, у выніку чаго ўзнікла кераміка з гібрыднымі рысамі, а таксама з'явіліся матэрыялы больш позняга, крывінская варыянта нарвенскай культуры. У больш позніх напластаваннях тут выяўлены матэрыялы ранняга бронзавай *шнуравой керамікі культуры* і матэрыялы сярэднябронзавага часу. Да канца бронзавага і пач. ранняга жал. веку адносяцца знаходкі культур штрыхаванай керамікі і мілаградскай. Невял. рыбацкае паселішча тут існавала і ў сярэднявеччы.

*Літ.:* 1290. *М. М. Чарняўскі.*

**СКІФЫ,** агульная назва асн. насельніцтва Паўн. Прычарнамор'я ў 7 ст. да н. э.— 3 ст. н. э. (С. еўрапейскія); у пашыраным сэнсе разам з імі таксама роднасныя іранамоўныя плямёны: сакі, масагеты, дакі і інш. (С. азіяцкія).

Паводле Герадота, называлі сябе скалотамі, падзяляліся на С. царскіх, на ваяўнічых С.-вандроўнікаў і аселых С.-землеробаў і аратых. Вандроўныя С. прыйшлі ў прычарнаморскія стэпы з Азіі, выцесніўшы кімерыйцаў, рабілі паходы ў Малую Азію, Сірыю, Палесціну, панавалі ў Пярэдняй Азіі. Плямёны С. насялялі тэр. паміж Донам і Дунаем, Крым, паўн. граніца не высветлена. Гандлявалі ў Прычарнамор'і з Ольвіяй і інш. грэчаскімі гарадамі-калоніямі, займаліся ганчарнай вытворчасцю, апрацоўкай жалеза, бронзы, золата. У 5 ст. да н. э. ў С. існавала ваенная дэмакратыя (нар. сход, савет старэйшын, племянныя правадыры) на стадыі пераходу да манархічнай дзяржавы. У канцы 3—2 ст. С. выцеснены *сарматамі* ў стэпавы Крым і Ніжняе Паднепроўе, дзе скіфскае царства з цэнтрам у г. Неапаль (каля сучаснага Сімферопаля) праіснавала да 2-й пал. 3 ст. н. э. і было знішчана готамі. Скіфская культура аказала моцны ўплыў на гісторыю і культуру многіх плямён. Рэчы скіфскага тыпу знаходзяць на Беларусі пры раскопках помнікаў *зарубінецкай культуры.*

*Літ.:* 254, 447, 1100. *С. Я. Расадзін.*

**СКЛАВІНЫ,** с л а в і н ы, адзін з стараж. слав. саюзаў плямён. Упамінаюцца гоцкім гісторыкам Іарданам (6 ст.) і ў візантыйскіх крыніцах. Упамінаюцца і іх суседзі *славяне* пад назвай анты. Магчыма, што гэтыя два народы паходзяць ад венедаў, вядомых у больш ранніх пісьмовых антычных працах. С. з антамі жылі на Сярэднім і Ніжнім Дунаі і на прылеглых тэрыторыях. Займаліся земляробствам, жывёлагадоўляй і інш. У саюзе з іншымі слав. плямёнамі вялі войны супраць Візантыйскай імперыі і качэўнікаў. Разам з антамі засялялі Балканскі паўвостраў у 6—7 ст., тэрыторыі сучасных Балгарыі, Румыніі, Югаславіі, Венгрыі, Славакіі, Паўн. Грэцыі.

*Літ.:* 242. *Л. Д. Побаль.*



Скрабок.

**СКЛЯПЕННЕ,** нясучая прасторавая канструкцыя для перакрыцця ці пакрыцця збудаванняў, якая мае крывалінейную паверхню. Робіцца з цэглы, прыроднага каменю, дрэва. Пад нагрузкай працуе пераважна на сцісканне, перадае на апоры вертыкальныя і гарызантальныя намаганні. Бывае рознай формы. Разнавіднасць С.— купал. У манументальнай архітэктуры Беларусі вядомы з 11—12 ст. Цыліндрычныя С. (закамары) і купалы з малымі пралётамі выкарыстаны ў Полацкай Спаса-Ефрасіннеўскай царкве, Гродзенскай Барысаглебскай царкве і інш. У збудаваннях перыяду абарончага дойлідства асобныя прасторавыя ячэйкі (травеі) паміж слупамі і сценамі храмаў і замкаў перакрываліся крыжовымі і гатычнымі нервюрнымі (зорчатымі, сотавымі) С. З 2-й пал. 16 ст. пашырыліся цыліндрычныя С. з распалубкамі, якія перакрывалі вял. пралёты. У помніках архітэктуры рэнесансу С. былі гладкія ці аздобленыя ляпным геам. арнаментам (касцёл у в. Чарнаўчыцы Брэсцкага р-на). Культавыя збудаванні ў стылі барока мелі звычайна цыліндрычныя С. з распалубкамі на падпружных арках у сярэднім нефе і крыжовыя С. ў бакавых. Над сяродкрыжжам рабіліся купалы. С. было размалявана фрэскавымі цыкламі на біблейскія і евангельскія сюжэты з ілюзорнай выявай архіт. прасторы (касцёлы езуітаў у Нясвіжы, кармелітаў у Магілёве). У перыяд класіцызму ў палацавым будаўніцтве шырока выкарыстоўваліся люстраныя С., у культавым — купал, якія таксама часта былі аздоблены ляпнымі кесонамі ці дэкаратыўнымі медальёнамі.

*Т. В. Габрусь.*

**СКОБЛЯ,** прылада для здзірання кары з бярвення і грубага іх стругання. Вядома з эпохі палеаліту. У каменным і бронзавым вяках гэта была крамянёвая пласцінка з выгнутым дугападобным рабочым краем. У жал. веку выраблялася з жалеза. Двухручныя жал. С. класічнай формы (пласціна-дуга з вострым краем і тронкамі для драўляных ручак на канцах) шырока выкарыстоўваліся ў 10—13 ст. Іх канструкцыя заставалася практычна нязменнай на працягу ўсяго сярэднявечча і дажыла да нашых дзён. Асобны яе від — аднаручная С.— спецыяльны інструмент для выканання больш складаных працы; яе вострая пласціна была сагнута ў кола, а абодва канцы ўваходзілі ў адну драўляную ручку. Вядомы па археал. і этнаграфічных матэрыялах, знойдзеных у Верхнядзвінску, Віцебску, Гродне, Крычаве, Чачэрску і інш.

*Літ.:* 552, 1498. *Г. М. Сагановіч.*

**СКРАБНІЦА,** жалезная прамавугольная шчотка для чысткі коней. Памеры 15—17 см × 7—8 см. З ніжняга боку прыпайвалася пласціна з дробнымі зубамі. Звычайна мела 4 рады зубоў: 2 знешнія рады ўтвараліся шляхам загіба краю пласціцы, 2 унутраныя (крыху меншай даўжыні) прыпайвалі. Зверху прымацоўвалі ручку ў выглядзе фігурнага двухзубца, насаджаную на драўлянае дзяржанне. На тэр. стараж. Русі С. вядомы з 11—13 ст. На Беларусі знойдзены ў Віцебску ў пластах 17—18 ст., Суражы, Чачэрску, Крычаве.

*Літ.:* 532. *Т. С. Бубенька.*

**СКРАБОК,** каменная пласціна для апрацоўкі скуры, рога, косці і дрэва. Вядомы з часоў палеаліту. Разнастайныя паводле формы, арыентацыі і характару рэтушы. Най-

больш пашыраныя тыпы С. на стаянках палеаліту — канцавыя, авальныя, круглаватыя. На Беларусі найб. старажытныя С. знойдзены ў *Бердыжы, Юравічах* і інш.

**СКРО́НЕВЫЯ КО́ЛЬЦЫ,** жаночае ўпрыгожанне з каляровых металаў (звычайна з білону, радзей з серабра, медзі, бронзы), якое насілі каля скроняў. С. к. падтрымлівалі прычоску, іх упляталі ў валасы па некалькі штук з кожнага боку, мацавалі з дапамогай стужкі ці раменьчыка. Магчыма, што ў некаторых выпадках мацавалі ў мочцы вуха. Паявіліся ў бронзавым веку. У зах. славян 8—9 ст. С. к. былі настолькі папулярнымі, што лічыліся спецыфічным слав. упрыгожаннем. У сярэднявеччы шырока распаўсюдзіліся ў Візантыі і Зах. Еўропе. Ва ўсх. славян С. к. набылі асаблівую папулярнасць у 11—12 ст.; былі ўпрыгожаннем сялянак і гараджанак. На Беларусі самыя стараж. С. к. належалі *сярэднеднягроўскай культуры*, у жал. веку — *мілаградскай культуры, зарубінецкай культуры, штрыхаванай керамікі культуры.*

С. к. прынята класіфікаваць паводле знешняга выгляду і тэхналагічных адзнак. Вылучаюць С. к.: драцяныя — сагнутыя з тонкага дроту ў выглядзе кольца ці больш складанай фігуры (паўтараабаротныя, бранзалетападобныя, спіральныя); пацеркавыя — драцяныя кольцы з нанізанымі на іх некалькімі (1—5) металічнымі, радзей шклянымі, пацеркамі; шчытковыя — пры іх вырабе дрот месцамі раскоўвалі ў пласціны, якія мелі форму ромбаў; прамянёвыя і блізкія да іх лопасцевыя — вырабляліся спосабам адліўкі, складаліся з дужкі і фігурнай часткі. Прынята лічыць, што С. к. нясуць этнавызначальную функцыю, што дае магчымасць удакладніць карту рассялення плямён. Для *крывічоў* характэрны бранзалетападобныя С. к. дыям. 5—11 см з завязанымі канцамі. На Полаччыне, Віцебшчыне, Браслаўшчыне трапляюцца вузкапласціністыя С. к. з заходзячымі канцамі, арнаментаваныя выпуклымі паяскамі, якія таксама лічаць крывіцкімі. *Дрыгавічы* насілі невял. драцяныя паўтараабаротныя С. к. дыям. каля 2 м, радзей пярсцёнкападобныя драцяныя і т. зв. кіеўскія трохпацеркавыя вузлаватыя С. к. У *радзімічаў* былі пашыраны сярэбраныя і бронзавыя 7-прамянёвыя С. к., падобныя да сямілопасцевых кольцаў *вяцічаў*. У міжрэччы Нёмана і Буга знаходзяць С. к. пярсцёнкападобныя з S-падобным або спіральным завіткам з заходзячымі канцамі, трохпацеркавыя і інш.

*Літ.:* 91, 661, 847, 848, 1128.

*А. М. Плавінскі, В. В. Гетаў.*

**СКРЫ́НЯ СКАРБО́ВАЯ,** драўляная, акаваная жалезам, са складаным замком скрыня або шкатулка, у якой захоўваліся грошы, каштоўнасці, каштоўныя паперы і інш. На Беларусі С. с. шырока бытавала ў 15—18 ст.

**СКРЫ́ПЧАНКА** Таццяна Сяргееўна (н. 18.1.1955, Мінск), беларускі археолаг. Скончыла БДУ (1978). Канд. гіст. навук (1983). З 1978 навук. супрацоўнік Ін-та гісторыі АН Беларусі, даследуе стараж. шкло. Удзельнічала ў рабоце Палескага археал. атрада, Мінскай археал. экспедыцыі. Абследавала помнікі археалогіі на тэр. Брэсцкай, Віцебскай, Гомельскай, Магілёўскай і Мінскай абласцей.

*Тв.:* Свіслацкія шкляныя бранзалеты XII—XIV стст. // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1980. № 3; Новое в технологической схеме производства стеклянных браслетов // Актуальные проблемы археологических исследований в УССР: Тез. докл. респ. конф. молодых учёных. Киев, 1981; О применении масс-спектрометрического метода при изучении составов древних стекол // Древности Белоруссии и Литвы. Мн., 1982; Аб крыніцах і метадах вывучэння старажытнарускага шкла // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1983. № 1; О производстве двухслойных и филигранных стеклянных браслетов // Древнерусское государство и славяне. Мн., 1983; Обмен и местное производство в средневековых городах Белоруссии (по материалам стеклянных браслетов) // Труды V Междунар. конгресса славянской археологии. М., 1987. Т. 3, вып. 1б.



**Скрыня скарбовая** 16—17 ст.



Т. С. **Скрыпчанка.**

**СКРЭ́БЛА,** каменная прылада працы для апрацоўкі скур, вырабаў з дрэва. Вядома з сярэдняга палеаліту. Іх выраблялі ў асноўным на масіўных адшчэпах ці пласцінах.

Падзяляюцца на адзінарныя і двайныя, з падоўжанай і папярочнай арыентацыяй лёзаў. Форма рэтушаваных лёзаў бывае прамая, увагнутая, выпуклая. На Беларусі найб. старажытныя С. мусцьерскага тыпу знойдзены ў *Абідавічах, Клеявічах, Сваціалавічах* і інш.

**СЛАБО́ДКА,** гарадзішча ранняга жал. веку каля в. Слабодка Барысаўскага р-на. За 1 км на ПдУ ад вёскі, на правым беразе р. Лужа, ва ўрочышчы Верх, у лесе. Пляцоўка памерам 55×45 м, выш. над поймай ракі да 9 м, часткова пашкоджана скарбашукальнікамі яшчэ ў дарэвалюцыйны час. З боку поля ўмацавана 2 валамі і равамі. Даследаваў 8 м² у 1964 Л. Д. Пабаль, абследаваў у 1979 Ю. А. Заяц. Культурны пласт 0,4 м.

Знойдзены фрагменты ляпнога посуду (некаторыя са штрыхоўкай), таўстасценнай глянцаванай міскі зарубінецкай культуры, абломак тыгля, глінянае прасліца, шлак, крыца. *Л. Д. Побаль.*

**СЛАБО́ДКА,** група археал. помнікаў каля в. Слабодка Калінкавіцкага р-на.

Паселішча-1. За 3 км на ПдЗ ад вёскі, на левым беразе р. Тур'я. Выявіў у 1960 і даследаваў у 1964 У. Ф. Ісаенка (раскапана 124 м²). Культурны пласт 0,2—0,5 м, прасочваецца на працягу 700 м уздоўж ракі. Знойдзены 480 апрацаваных крамянёў, 88 крамянёвых прылад працы, 620 фрагментаў ляпнога посуду. Адносіцца да сярэдняга этапу *днепра-данецкай культуры.*

Паселішча-2. За 1,5 км на ПдЗ ад вёскі, на паўн. схіле невял. ўзвышша ў пойме р. Тур'я. Вядома з 1924. Абследаваў у 1976 Ісаенка. Пл. 0,6 га. Культурны пласт 0,3—0,4 м. Раскопкі не праводзіліся.

Паселішча-3. За 2 км на З ад вёскі, ва ўрочышчы Бярозаўскі Поплаў. Памер 60×30 м. Выявіў у 1932 А. Дз. Каваленя, абследаваў у 1976 Ісаенка. Культурны пласт 0,2 м. Раскопкі не праводзіліся.

На ўсіх паселішчах на паверхні трапляюцца матэрыялы зарубінецкай культуры (абломкі глінянага посуду, пацеркі з сіняга шкла і інш.).

*Літ.:* 460. *У. Ф. Ісаенка.*

**СЛАБО́ДКА,** курганныя могільнікі крывічоў каля в. Слабодка Чашніцкага р-на. Датуецца 10 — пач. 11 ст.

Курганны могільнік-1. За 1,5 км на З ад вёскі, на беразе воз. Лукомскае. 106 круглых курганоў (мясц. назва валатоўкі) выш. 0,5—2,5 м, дыям. 6—11 м. Самы вял. курган выш. 3,8 м, дыям. 18 м. Насыпаны з гліны на месцы паселішча

5—8 ст. Выявіў у 1967 і даследаваў 12 насыпаў у 1967, 1969, 1971 Г. В. Штыхаў. Асн. пахавальны абрад — трупаспаленне, змешчанае ў невял. ямках, у двух выпадках — трупапалажэнне.

Знойдзены шкляныя пацеркі «лімонкі», скроневае кольца, пярсцёнак, нажы, гліняны посуд. У адным кургане было 6 гаршкоў (1 ляпны і 5 ганчарных). Кераміка з паселішча арнаментавана расчосамі, ёсць слабапрафіляваны ляпны посуд.

Курганны могільнік-2. За 1,7 км на З ад вёскі, у лесе. 8 курганоў выш. 0,5—2 м, дыям. 8—10 м. Выявіў і даследаваў 2 насыпы ў 1974 Штыхаў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне. У адным кургане ў насыпе знойдзены нож, на мацерыку — жал. сякера «чакан», нож, бронзавая падковападобная фібула. У другім кургане — шкілет на попельна-вугальнай праслойцы, арыентаваны на ПнЗ. Пахаванне без інвентару.

Курганны могільнік-3. За 3 км на З ад вёскі, на беразе воз. Лукомскае. 30 курганоў выш. 0,5—2 м, дыям. 6—10 м. Выявіў у 1967 і даследаваў 6 насыпаў у 1974 Штыхаў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне. У трох курганах выяўлены па 2 шкілеты, арыентаваныя на З з адхіленнем на Пн або Пд, у адным — рэшткі пахавання, два — без пахаванняў.

Знойдзены нож, шыфернае прасліца, металічны крыжык, пацеркі (шкляныя, залачоныя і інш.). Каля асн. пахавання (жаночы шкілет на попельна-вугальнай праслойцы, арыентаваны галавой на З) знойдзены багаты інвентар: 65 шкляных, залачоных, 6 круглых бурштынавых пацерак, 9 скроневых кольцаў з круглага бронзавага дроту (6 з заходзячымі канцамі, 2 з свабоднымі канцамі, 1 S-канцовае), сярэбраная падвеска з англійскай манеты Этэльрэд (979—1016).

*Літ.:* 1355. *Г. В. Штыхаў.*

**СЛАБОДКАЎСКІ МАНЕТНЫ СКАРБ.** Знойдзены ў былой в. Слабодка Лагойскага р-на ў 1902. Складаўся з 24 цэлых і 7 фрагментаваных сярэбраных *зліткаў плацежных:* 10 наўгародскага і 21 літоўскага тыпу агульнай масай 3361,42 г. На двух наўгародскіх зліткаў графіці птрва (Пятрова) і уган. 4 літоўскія зліткі былі прададзены прыватным асобам, астатнія паступілі ў Гістарычны музей (Масква), адкуль у 1920-х г. 3 літоўскія (106,51; 108,34; 108,74 г) і 2 наўгародскія (183,53; 200,37 г) зліткі перададзены ў Бел. дзярж. музей. Скарб ухаваны ў 13—14 ст.

*Літ.:* 1541, 1599, 1647. *В. Н. Рабцэвіч.*

**СЛАВЕНЕ,** ільменскія славяне, паўночныя ўсх.-слав. плямёны, якія ў 2-й пал. 1-га тысячагоддзя жылі ў басейне воз. Ільмень, у 10—13 ст. рассяляліся на Іжорскім плато, па р. Малога дасягалі Яраслаўскага Паволжа і Волга-Окскага міжрэчча. Займаліся земляробствам, паляваннем, рыбалоўствам, будавалі наземныя зрубныя дамы з печамі-каменкамі. Асн. тыпам іх пасяленняў былі селішчы. У 8 ст. ў С. узніклі першыя гарадзішчы. Найб. стараж. помнікі С.— пахавальныя *сопкі.* Пахавальны абрад — трупаспаленне. Рэшткі крэмацыі звычайна змяшчалі на гарызонце або ў неглыбокай ямцы. Больш за 70 % пахаванняў без інвентару.

Сярод знаходак жал. нажы, цвікі, бронзавыя і медныя фрагменты конскага рыштунку (псаліі, бляшкі), упрыгожанні — трапецападобныя падвескі, пярсцёнкі, шкляныя і паставыя пацеркі і інш. Пашыраны нізкія ляпныя слабапрафіляваныя гаршкі (характэрны для фінскіх старажытнасцей). Адметная рыса пасудзін з сопак — усечана-канічная ніжняя частка, што збліжае іх з ляпным посудам слав. курганоў 9—10 ст. Наяўнасць у сопках фінскіх элементаў пахавальнага абраду адлюстроўвае працэс славянізацыі мясц. фіна-угорскіх плямён. У Прыільменні не выяўлены пахавальныя помнікі, якія маглі б быць прататыпам сопак. Верагодна, што продкі С. рухаліся ў Прыільменне праз землі *балтаў* і запазычылі іх звычай рабіць курганныя насыпы. У 9—10 ст. побач з сопкамі пашыраны круглыя курганы з трупаспаленнем. З пач. 11 ст. пераважаў пахавальны абрад трупапалажэння на гарызонце — у падкурганных ямах галавой на З (зрэдку на У). Этнавызначальныя рэчы С.— ромбашчытковыя і авальнашчытковыя скроневыя кольцы (11—14 ст.). Пашыраны пярсцёнкападобныя скроневыя кольцы, шчытковыя завязаныя пярсцёнкі, завушніцы ў форме пытальніка, бранзалеты з абрубленымі канцамі і інш.



Скрэбла.



Слабодкаўскі манетны скарб.

На Беларусі ромбашчытковыя скроневыя кольцы С. знойдзены каля Радашковіч, у *Чапліне* і інш. У 9 ст. С. і *крывічы* разам з фінскім племем весь утвараюць палітычны саюз. Цэнтр С.— Ноўгарад (859). З 879 у Ноўгарадзе княжыў Алег, які ў 882 авалодаў Кіевам, пакарыў драўлян, северан, радзімічаў і інш. Землі С. сталі ядром уладанняў Наўгародскай феад. рэспублікі.

*Літ.:* 1052.

**СЛАВЕНІ,** курганны могільнік крывічоў каля в. Славені Ушацкага р-на. За 1 км на ПдУ ад вёскі, у лесе абапал дарогі ў в. Крыжы. 18 насыпаў выш. 1—3 м, дыям. 10—17 м. Адкрыў і даследаваў у 1930 І. А. Сербаў (2 насыпы), абследавалі ў 1971 А. Г. Калечыц, у 1981 А. А. Егарэйчанка. У адным кургане пахавальны абрад — трупапалажэнне. Разам з нябожчыкам ляжалі 50 пацерак, падвеска з дырхема дынастыі Саманідаў (914—943), жал. нож, ганчарны гаршчок, бронзавая падвеска. У другім насыпе пахавальны абрад — трупаспаленне. Знойдзены нож, фрагменты ганчарнага посуду. Датуецца 9—11 ст.

*Літ.:* 1081.

**СЛАВЯНЕ,** этнамоўная агульнасць, што належыць да індаеўрапейцаў, у моўную сям'ю якіх, акрамя С., уваходзяць таксама народы, што гавораць цяпер на германскіх, балцкіх, італійскіх (раманскіх), кельцкіх, індаіранскіх, грэчаскай, армянскай і албанскай мовах, а таксама пашыраныя ў старажытнасці анаталійскія, ілірыйскія, тахарскія і фракійскія плямёны. У цяперашні час да С. належаць рускія, украінцы, беларусы (СНД), палякі (Польшча), чэхі (Чэхія), славакі (Славакія), лужычане (Германія), балгары (Балгарыя), сербы, харваты, славенцы і македонцы (Югаславія). Ёсць некалькі меркаванняў пра паходжанне этноніма С. Найбольш верагодна, што ён паходзіць ад слова «слава», г. зн. першапачаткова абазначаў «слаўныя», або ад «слова», г. зн. «тыя, што гавораць» у адрозненне ад іншых народаў, якія карысталіся незразумелымі для С. мовамі.

У пісьмовых крыніцах этнонім «С.» ўпершыню сустракаецца ў 6 ст. н. э. ў творах візантыйскіх аўтараў Пракопія Кесарыйскага, Агафія, Менандра Пратыктара, Еваг-

рыя, Іаана Эфескага, Маўрыкія Стратэга і гоцкага гісторыка Іардана. У гэты час С. былі вядомы пад трыма найменнямі: венеты, анты і склавены. Склавены (даследчыкамі даказана, што літара «к» тут устаўная) лакалізаваліся ад воз. Мурсіянскага (паводле меркаванняў, воз. Балатон) і г. Навіетуна (недалёка ад сучаснай Любляны) на З, да Днястра на У і Віслы на Пн, анты — у Прычарнамор'і ад Днястра да Дняпра; венеты, па вызначэнні Іардана, жылі «на поўнач, пачынаючы ад месца нараджэння ракі Вістулы (Віслы)». Візантыйскія гісторыкі паведамляюць пра канцэнтрацыю С. і антаў на левабярэжжы ніжняга Дуная і пра пранікненне іх у межы Візантыйскай імперыі. Ёсць падставы лічыць, што ў антычных крыніцах С. называлі і венедамі. Пра гэта непасрэдна сведчыць Іардан, а ўскосна тое, што амаль да цяперашняга часу германцы і прыбалтыйскія фіны называюць С. венедамі; венгры называюць венедамі славенцаў. Першыя звесткі пра венедаў адносяцца да 1—2 ст. н. э. (Пліній Старэйшы.




Аўтар карты В.В.Сядоў

Тацыт, Пталамей). Антычныя аўтары паведамляюць, што яны засялялі тэр. паміж Германіяй і Сарматыяй, прыблізнай мяжой паміж якімі была Вісла. Паводле Пталамея, венеды — адно з буйнейшых плямён Еўрапейскай Сарматыі, вобласць пражывання якіх знаходзілася недзе па суседству з Венедскім залівам Сармацкага акіяна (Балтыйскага мора). На карце Пеўтынгера (канец 3 — пач. 4 ст. н. э.) венеды пазначаны ў 2 рэгіёнах: на Пд ад Балтыйскага мора, на ПнЗ ад бастарнаў і паміж Днястром і Дунаем побач з гетамі і дакамі. Таму можна меркаваць, што ў першых стагоддзях н. э. венеды жылі недзе паміж Балтыйскім морам і Карпатамі, іх усх. мяжа застаецца неакрэсленай, а ў 3—4 ст. тэр. венедаў дасягала Паднястроўя. Пра паходжанне С. вучоныя 19 і 20 ст. выказалі мноства супярэчлівых гіпотэз, асабліва пра месцазнаходжанне іх прарадзімы. Шматлікія даследчыкі адстойвалі думку пра лакалізацыю С. у прыпяцка-сярэднедняпроўскім рэгіёне (Ю. Растафінскі, М. Фасмер, К. Машынскі, Ф. П. Філін і інш.), другая група вучоных змяшчала іх прарадзіму ў Вісла-Одэрскім міжрэччы (Т. Лер-Сплавінскі, Ю. Кастшэўскі, Я. Чаканоўскі і інш.), трэція — на шырокіх прасторах ад Одэра да Дняпра (Л. Нідэрле, П. М. Траццякоў, В. Генсель, Б. А. Рыбакоў і інш.). Кожны з даследчыкаў абгрунтоўваў сваю думку на падставе даных гісторыі, мовазнаўства, тапанімікі, батанікі, археалогіі, антрапалогіі і інш. навук. Перадгісторыя і пачатковая этнічная гісторыя С. на падставе археал. фактаў і гіпотэз з прыцягненнем даных лінгвістыкі і гідранімікі ўяўляецца наступнай.

Побач з кельтамі, італікамі, германцамі, балтамі і ілірыйцамі, С. выйшлі з старaж. групоўкі *індаеўрапейцаў,* якая яшчэ існавала ў 2-м тысячагоддзі да н. э. Унутры гэтай групоўкі было некалькі дыялектаў, даволі блізкіх паміж сабой, але слаба звязаных адзін з адным. Старажытныя індаеўрапейскія гідронімы пашыраны ад Скандынавіі на Пн да мацерыковай Італіі на Пд і ад Брытанскіх астравоў на З да паўд.-ўсх. Прыбалтыкі на У; пазней яны выяўлены ў Верхнім Падняпроўі і Паўн. Прычарнамор'і. Зыходным рэгіёнам старажытнаеўрапейцаў паводле рэтраспектыўных археал. пошукаў былі вобласці паўд.-ўсх. Еўропы. Адсюль некалькімі хвалямі яны рассяліліся ў зах., паўн.-зах. і паўн. напрамках і паступова асвоілі прасторы Еўропы. Адной з першых хваляў рассялення старажытнаеўрапейцаў была міграцыя плямён *шнуравой керамікі культур.* Пазней іх у значнай частцы паглынулі фіна-угры, фракійцы, носьбіты культуры звонападобных кубкаў. Непасрэдна з насельніцтва часткі культур шнуравой керамікі сфарміраваліся толькі *балты* (рэгіён ад паўд.-ўсх. ўзбярэжжа Балтыйскага мора да Сярэдняга Падняпроўя). З этнагенезам С. звязаны плямёны *стшыжоўскай культуры, гарадоцка-здоўбіцкай культуры,* велікапольска-мазавецкай і мержановіцкай культур (рэгіён на Пн і ПнУ ад Карпат). На аснове гэтых культур сфарміравалася *тшцінецкая культура,* якую можна разглядаць як протаславянскую. У працэсе свайго развіцця яна зазнала ўздзеянне перадлужыцкай і *курганнай культуры,* якія звязаны з іншай міграцыйнай хваляй старажытнаеўрапейцаў. У 12 ст. да н. э. рэгіён тшцінецкай культуры ўвайшоў у вялікі арэал сярэднееўрапейскай культурнай агульнасці *палёў пахавальных урнаў культуры* (ад Іспаніі і Зах. Францыі да Малдовы і заходнеўкраінскіх земляў). Гэта былі плямёны зах. групоўкі старажытнаеўрапейцаў, яшчэ не расчлянёныя на асобныя мовы. З яе паступова вылучыліся кельты, італікі, ілірыйцы і С. Пачынаючы з 550 да н. э. ў выніку міграцыі плямён *паморскай культуры* ва ўсх. раёны *лужыцкай культуры,* якая складала частку культурнай агульнасці палёў пахавальных урнаў, у Павісленні складваецца культура падклёшавых пахаванняў, якую ўжо можна лічыць уласна славянскай. Арэал ранніх С. не быў замкнёнай тэрыторыяй. У 3—2 ст. да н. э. ў яго пранікалі кельты, якія перайшлі праз Карпаты і рассяліліся ў Сілезіі і Малапольшчы. Да гэтага часу адносіцца цеснае славяна-кельцкае ўзаемадзеянне, якое пакінула спадчыну ў культуры С. З канца 2 ст. да н. э. на тэр. рассялення С.назіралася інфільтрацыя германцаў, фарміравалася *пшэворская культура,* у вісленскім рэгіёне якой пераважным насельніцтвам былі С., а ў больш зах. абласцях — германцы.

Адгалінаваннем культуры падклёшавых пахаванняў была *зарубінецкая культура.* Частка яе носьбітаў рассялілася ў балцкім асяроддзі і, верагодна, з цягам часу стала балтамі. Сярэдняе Падняпроўе, дзе позні этап зарубінецкай культуры трансфармаваўся ў *кіеўскую культуру,* заставалася ў значнай ступені славянскім. У 2—3 ст. н. э. ў выніку міграцыі С. з пшэворскага і зарубінецкага рэгіёнаў і змяшэння іх з мясц. скіфска-сармацкім насельніцтвам пры ўдзеле ўсходнегерманскіх перасяленцаў з Польскага Памор'я *(вельбарская культура)* у Паўн. Прычарнамор'і ад ніжняга Дуная да Северскага Данца склалася поліэтнічнае фарміраванне — *чарняхоўская культура.* У якасці аб'яднальнага пачатку, відаць, былі готы, якія стварылі тут напаўдзяржаўнае ўтварэнне. У розных месцах чарняхоўскага арэала адбываліся неаднолькавыя этнічныя працэсы. У падольска-дняпроўскім лесастэпавым рэгіёне ў выніку славяна-іранскага сімбіёзу сфарміравалася дыялектна-племянная галіна С.— анты. У рымскі час С. былі прадстаўлены 3 культурна-племяннымі групоўкамі — павісленскай (пшэворская культура), падольска-дняпроўскай (чарняхоўская культура) і сярэднедняпроўскай (познезарубінецкія і кіеўскія старажытнасці).

Эпоха вял. перасялення народаў парушыла эвалюцыйнае развіццё слав. культур. У пач. сярэднявечча ва ўмовах шырокага рассялення С. пачалі фарміравацца новыя археал. культуры, якія адлюстроўвалі дыялектна-племяннoе чляненне апошняга перыяду гісторыі праславянскай мовы. На базе пшэворскай складвалася *пражская культура* (тыпу *Карчак*), якая ў 6—7 ст. распаўсюдзілася ад верхняй Эльбы да Кіеўскага Падняпроўя. Яе носьбітамі былі склавены сінхронных пісьмовых крыніц. Для гэтай культуры характэрны параўнаўча невял. неўмацаваныя пасяленні з жытламі-паўзямлянкамі, слабапрафіляваныя гаршкі з найбольшым расшырэннем у верхняй трэці (тыпу Прага — Карчак) і бескурганныя могільнікі з пахаваннямі па абраду трупаспалення, у 6—7 ст. тут пачалі пашырацца курганы, якія пазней выцеснілі бескурганныя пахаванні. На Пд, ад ніжняга Дуная да Северскага Данца, на аснове падольска-дняпроўскага варыянта чарняхоўскай культуры пры ўдзеле плямён кіеўскай культуры ўтварылася пянькоўская культура, носьбітамі якой былі анты, што згадваюцца ў пісьмовых крыніцах. Для іх характэрны неўмацаваныя пасяленні з жытламі-паўзямлянкамі, біканічныя і з круглаватымі бакамі пасудзіны з найбольшым расшырэннем у сярэдняй частцы і бескурганныя могільнікі з пахаваннямі па абрадах трупаспалення і трупапалажэння (пазней апошні спосаб пахаванняў стаў пануючым). У землях антаў выяўлена серыя скарбаў і выпадковыя знаходкі металічных рэчаў, у т. л. каля в. Мартынаўка на р. Рось, які ўтрымліваў сотні сярэбраных прадметаў. Вельмі характэрнымі для антаў былі пальцавыя фібулы з маскападобнай асновай. Анты і склавены актыўна ўдзельнічалі ў асваенні Дунайскіх зямель, Балканскага паўвострава, Адрыятыкі, яны праніклі на Пелапанес. У 6—7 ст. у Мекленбургу і Польскім Памор'і рассялілася яшчэ адна дыялектна-племянная групоўка С., прадстаўленая старажытнасцямі сукоўска-дзедзіцкага тыпу. Для яе

характэрны такія ж неўмацаваныя пасяленні, але жытлы тут былі наземныя, у гліняным посудзе разнастайных форм пераважалі прысадзістыя гаршкі. Пахавальны абрад — раскідванне рэшткаў крэмацыі памёрлых на паверхні ў пэўных месцах.

У 5—7 ст. у басейнах азёр Ільмень і Пскоўскага склалася групоўка С., якая адарвалася ад асн. масіву. Найбольш характэрныя яе помнікі — раннія доўгія курганы пскоўскага тыпу. У гэтым рэгіёне С. змяшаліся з прыбалтыйска-фінскімі абарыгенамі, таму ў культуры доўгіх курганоў прысутнічаюць і неславянскія элементы. Дыялект гэтай групоўкі С. рэканструюецца даследчыкамі па наўгародскіх берасцяных граматах. У верхнедняпроўскіх і заходнедзвінскіх землях да 6—8 ст. належаць блізкія паміж сабой *банцараўская культура, калочынская культура* і *тушамлінская культура.* Адны даследчыкі лічаць, што яны пакінуты С., другія адносяць іх да дняпроўскіх балтаў. Аргументаваць прыналежнасць гэтых старажытнасцей толькі да С. пакуль няма падстаў. У Паільменні прыкладна на рубяжы 7—8 ст. рассялілася яшчэ адна групоўка раннесярэдневяковых С., вядомая ў асноўным па сопках — высокіх крутабокіх пахавальных насыпах шмат'ярусная будовы. Гэта былі калектыўныя магільныя склепы, якія ўтрымлівалі дзесяткі пахаванняў па абраду трупаспалення і, відавочна, належалі вял. патрыярхальнай сям'і. У сопках трапляюцца і неслав. элементы — разнастайныя збудаванні з камянёў, ахвярапрынашэнні жывёл і інш., што абумоўлена ўдзелам у этнагенезе ільменскіх С. (паводле стараж.-рус. летапісаў, наўгародскія славене) мясц. прыбалтыйска-фінскага насельніцтва.

У 7—8 ст. вылучаецца яшчэ некалькі дыялектна-племянных груповак С. На сярэднім Одэры рассялілася параўнаўча невял. група, якая характарызавалася керамікай тарнаўскага тыпу і пасяленнямі — малымі гарадзішчамі. Гэта продкі лужычан. Іх гаворкі сталі асновай адной з лужыцкіх моў. У частцы земляў Мекленбурга і Брандэнбурга таксама паявілася невял. група С., якая пакінула кераміку фельдбергскага тыпу, што атаясамліваюць з племем вільцы. Да канца 7—8 ст. адносіцца русенская група С., якая рассялілася ў басейне р. Заале,— гэта вядомыя па пісьмовых крыніцах сорбы.

З 8 ст. С. шырока асвойваюць вял. рэгіён Дняпроўскага левабярэжжа, басейн сярэдняга і верхняга Дона і верхнюю Аку. Знойдзеныя тут помнікі адносяцца да раменска-боршаўскай культуры, якая характарызуецца жытламі-паўзямлянкамі, што размяшчаліся на гарадзішчах, і своеасаблівым гліняным посудам. Усе названыя культурна-племянныя групоўкі характарызуюць апошні перыяд гісторыі С., калі яны яшчэ гаварылі на адзінай праславянскай мове. У выніку вельмі шырокага рассялення С. і ўзаемадзеяння іх з іншымі рознымі этнасамі з 8—9 ст. пачаўся працэс распаду агульнаславянскай мовы і ўтварэнне асобных слав. моў. Гэты працэс быў вельмі складаным, станаўленне моў С. адбывалася не адначасова, пры гэтым мелі месца і перагрупіроўкі, і драбненні, і аб'яднанне дыялектаў праслав. мовы.

Некаторыя даследчыкі (К. Гадлоўскі, Й. Вернер, Траццякоў у апошніх працах і інш.) адмаўляюць слав. прыналежнасць часткі насельніцтва пшэворскай і чарняхоўскай культур і лічаць, што носьбітамі гэтых старажытнасцей былі ўсх. германцы. Гісторыю С. гэтыя вучоныя пачынаюць з зарубінецкіх старажытнасцей, мяркуючы, што на іх аснове эвалюцыяніравалі раннесярэдневяковыя культуры — карчакская, пянькоўская і інш. Аднак матэрыялы, якія пакінулі С. на Эльбе і Пелапанесе, бясспрэчна сведчаць пра тое, што яны былі добра знаёмы з правінцыяльнарымскай культурай. Гэта магло адбыцца толькі ва ўмовах знаходжання С. сярод насельніцтва пшэворскай і чарняхоўскай культур.

У басейне верхняй і сярэдняй Віслы і ў міжрэччы Віслы і Одэра на аснове пражска-карчакскай культуры фарміруюцца старажытнасці сярэдневяковых племянных утварэнняў (адначасова і племянных княжанняў), якія склалі ядро польскай народнасці (паводле старажытнарус. летапісаў — ляхі). Найважнейшыя з іх: в і с л я н е ў верхоўях Віслы, пазней вядомыя пад назвай малапаляне з гал. цэнтрам г. Кракаў; п а л я н е ў басейне Варты, іх палітычнымі цэнтрамі былі Гнезна, Крушвіца і Познань; м а з а ў ш а н е ў сярэднім Павісленні; с л я з а н е (слянзане) у вярхоўях Одэра з цэнтрам Вроцлаў (Вроцлаў). Вядомы больш дробныя плямёны — ленчыцяне і сарадзяне (уваходзілі ў племянны саюз палян), бабране, дзедашане, апаляне і харваты. Каля сярэдзіны 9 ст. пачаўся працэс аб'яднання гэтых племянных княстваў. Першапачаткова ён адбываўся вакол двух асн. цэнтраў — княства віслян у Малапольшчы і княства палян у Велікапольшчы. Але пасля ўваходжання земляў віслян у склад Вялікай Маравіі аб'яднаўчыя функцыі сканцэнтраваліся вакол Велікапольшчы. Гэты працэс завяршыўся ўтварэннем Велікапольскай дзяржавы на чале з Мешкам I [960—992]. Стварэнне дзяржаўнасці садзейнічала пераадоленню племянной раздробленасці і кансалідацыі асобных ляшскіх плямён у польскую народнасць. З племянных дыялектаў паступова сфарміравалася польская мова. Племянная назва паляне стала асновай для этноніма ўсёй польскай народнасці (палякі). Плямёны сукоўска-дзедзіцкай культуры сталі асновай палабска-балтыйскіх С. Паміж ніжнімі цячэннямі Одэра і Віслы вядомы п а м а р а н е, для якіх характэрна ажыўленае гар. жыццё — ранняе ўзнікненне гарадоў Воліна, Шчэціна, Калабжэга і Гданьска. На З ад ніжняга Одэра жылі в і л ь ц ы, культура якіх сфарміравалася пры ўзаемадзеянні насельніцтва, што прадстаўлена сукоўскімі старажытнасцямі, і перасяленцамі, якія прынеслі кераміку фельдбергскага тыпу. Саюз вільцаў складаўся з 4 плямён — радараў, хіжан, запенян і даленцаў. Да іх прымыкалі руяне, што жылі на востраве Руген. Аснову іх племянных рэгіёнаў складалі скопішчы пасяленняў з умацаваным цэнтрам пасярэдзіне (у зямлі вільцаў іх было 95). Падзяляліся паміж сабой пагранічнымі лясамі і называліся ў лацінскіх крыніцах civitas. З гісторыяй вільцаў звязана адно з нар. паўстанняў ранняга сярэднявечча — люціцкае. У 983 вільцы, якія аб'ядналіся з стадаранамі — племянным саюзам, што займаў правабярэжную частку Хавеля і складаўся з 18 civitas, у саюз люцічаў, узнялі паўстанне супраць 929 нямецкіх феадалаў, якія панавалі тут. Люцічы поўнасцю вызвалілі сваю тэрыторыю і аднавілі лад ваеннай дэмакратыі. Пасля кароткачасовага панавання нямецкага духавенства наступіў уздым язычніцтва. Месцамі нар. сходаў люціцкага саюзу стала Рэтра. Паводле паведамленняў храністаў, у племянных цэнтрах будаваліся раскошныя язычніцкія храмы, у т. л. ў Рэтры, Валгасце, Гюцкаве і ў Арконе на востраве Руген. Будаўніцтва драўляных храмаў у балтыйскіх С., як мяркуюць даследчыкі, узыходзіць да кельцкага храмавага будаўніцтва. Зах. суседзямі вільцаў былі абадрыты, якія жылі ў зах. Мекленбургу і ўсх. Гальштэйне. Цэнтрам гэтага племяннога саюзу быў Вілiград. У склад саюзу ўваходзілі вагры з цэнтрам Старыгард (Ольдэнбург), палабане з цэнтрам у Раціборы і Любіцы (Любек), смолінцы, гліняне і драване. Абадрыты ў канцы 8 ст. былі саюзнікамі караля франкаў (будучага імператара Карла Вялікага) у барацьбе з саксамі і пастаянна варагавалі з вільцамі. У 2-й палове 11 ст. вільцы паступова ўцягваліся ў феад. дзяржаву абадрытаў, якая фарміравалася.

Курганны абрад пахавання ў асяроддзі балтыйскіх С. стаў пашырацца пад уздзеяннем скандынаўскай абраднасці. Гандлёвыя сувязі балтыйскіх С. са Скандынавіяй прывялі да таго, што скандынаўскія купцы пачалі сяліцца ў прыморскіх гарадах, ад іх і быў запазычаны курганны абрад. Усе плямёны балтыйскіх С. насілі аднолькавыя скроневыя ўпрыгожанні — кольцы паморскага тыпу. У землях на З ад Ордэна балтыйскія С. ў 8—9 ст. былі ў значнай ступені германізаваны, у Польскім Памор'і яны ўвайшлі ў склад польскай народнасці. Рэшткамі балтыйскіх С. доўгі час аставаліся 2 нешматлікія народы — кашубы, што жылі на З ад дэльты Віслы на Кашубскім узвышшы, і славінцы на Балтыйскім узбярэжжы каля воз. Лебскага. У сучаснай польскай мове вылучаецца кашубскі дыялект. У 782 пачалося наступленне немцаў на землі лужычан, якія ўпарта супраціўляліся, але да канца 10 ст. былі канчаткова заняволены германцамі. Аднак серба-лужыцкая мова захавалася да цяперашняга часу. Лужычане падзяляюцца на 2 этнаграфічныя групы — верхніх і ніжніх лужычан.

Левабярэжная частка Сярэдняга Падунаўя ўваходзіла ў арэал пражскай

культуры. На тэр. Чэхіі, паводле пісьмовых крыніц, вядомы плямёны С.: л у ч а н е ў паўн.-зах. частцы на р. Агры, ч э х і ў цэнтральным рэгіёне, з л і ч а н е на У ад чэхаў, х а р в а т ы ў паўн.-ўсх. частцы, а таксама больш дробныя — седлічане, літамерыцы, дзечане, лемузы, пшаване і дудлебы. Самым значным і найб. моцным племем былі чэхі, якім належала ініцыятыва аб'яднання чэшскіх, мараўскіх і сілезскіх С. Пачатак гэтага працэсу адносіцца да канца 8 ст., калі ў лацінскіх крыніцах паяўляецца назва «багемцы» (так іншаземцы называлі чэхаў) у значэнні племяннога аб'яднання. Першы буйны палітычны саюз С. у Сярэднім Падунаўі створаны ў 7 ст. ва ўмовах барацьбы з аварамі. На чале яго стаў военачальнік Сама, які быў выбраны каралём [623—658]. Спробы падначаліць гэтае напаўдзяржаўнае ўтварэнне С. франкскім каралём Дагабертам I не ўвянчаліся поспехам, аднак пасля смерці Самы саюз распаўся. Пра месцазнаходжанне дзяржавы Сама выказана некалькі гіпотэз. Яе лакалізавалі ў Чэхіі, Маравіі, Цюрынгіі, Карантаніі, на сярэднім Дунаі. Найб. верагодна, што гэтая дзяржава займала рэгіён верхняга цячэння р. Майн з цэнтрам Кнетзгау (ад слав. слова «князь»). Гэтая вобласць яшчэ ў



12 ст. ў пісьмовых крыніцах называлася «зямлёй славян», тут захавалася шмат слав. тапонімаў, а пры археал. даследаваннях на шэрагу помнікаў выяўлена кераміка 7 ст. пражскага тыпу. Апісанне дзяржавы Сама ў хроніцы Фрэдэгарда больш за ўсё падыходзіць да гэтага рэгіёна. Да 9 ст. адносіцца існаванне Вялікамараўскага княства (818—906), якое размяшчалася на тэр. паміж сярэднім Дунаем, вярхоўямі Лабы (Эльбы) і Одэра і аб'ядноўвала землі мараваў і суседніх славацкіх і чэшскіх плямён. У 863 па просьбе кн. Расціслава Візантыя накіравала ў Вял. Маравію хрысціянскіх прапаведнікаў Канстанціна (Кірыла) і Мяфодзія, што спрыяла ўмацаванню дзяржаўнасці, стварэнню царкоўнай арганізацыі і пісьменнасці, прыкметнаму ўздыму культурнага жыцця. Асноўнымі археал. помнікамі Вял. Маравіі з'яўляюцца Мікульчыцэ, Паганска і Угерске Градзішча. З канца 9 ст. назіраецца працэс аддзялення асобных слав. плямён ад дзяржавы. Вял. Маравія не змагла адбіць у 905—906 венграў і была заваявана імі, а Чэхія адстаяла самастойнасць і ўтварыла Чэшскую дзяржаву.

Суседзямі чэшскіх і мараўскіх плямён на Пд былі славенцы і роднасныя ім карантанскія і альпійскія С. У раннім сярэднявеччы яны займалі даволі вял. тэрыторыю — на З яны праніклі ўглыб Альпійскіх гор, на ПдЗ дасягнулі Адрыятычнага ўзбярэжжа, на У — вусця Дравы. Пасяліліся яны тут ужо ў 2-й пал. 6 ст. пасля адыходу лангабардаў. У працэсе барацьбы з аварамі гэтая групоўка С. вымушана была падпарадкавацца свайму магутнаму суседу — дзяржаве франкаў, у выніку значная частка С. была паступова германізавана. Славенцы захавалі сваю мову і самабытнасць. У раннім сярэднявеччы яны складаліся з некалькіх плямён: дулебаў, стадаран, суслаў і палян. Продкамі сербаў былі С., якія ў 1-й пал. 7 ст. рассяліліся на землях ніжняга і сярэдняга цячэння Савы. Аснову сербскай народнасці складалі 5 плямён — нерачане, захлумяне, травуняне, канаўляне і дукляне, землі якіх былі падначалены Візантыі. Спробы аб'яднання гэтых плямён рабіліся неаднаразова, але зрабіць гэта ўдалося толькі ў сярэдзіне 10 ст. кн. Чэславу Кланіміравічу, які пашырыў сваю ўладу на ўсе сербскія землі. Гэтае раннедзяржаўнае ўтварэнне было кароткачасовым. Заходнімі суседзямі сербаў былі харваты, якія жылі аж да ўзбярэжжа Адрыятыкі. У канцы 8 ст. вобласць іх рассялення была заваявана войскамі Карла Вялікага. Харваты прынялі каталіцтва. Буйное паўстанне супраць франкскага ўладарніцтва адбылося ў 819—822 пад кіраўніцтвам князя пасаўскіх харватаў Людзевіта. У сярэдзіне 9 ст. значная частка тэр. харватаў вызвалілася ад германскіх феадалаў, і ў канцы 9 — пач. 10 ст. завяршыўся працэс утварэння самастойнай Харвацкай дзяржавы — у 925 кн. Таміслаў быў абвешчаны каралём Харватыі. На Адрыятычным узбярэжжы ў Далмацыі напярэдадні прыходу С. існавалі рымскія гарады — Дуброўнік, Задар, Спліт, Трагір, Катар і інш. У канцы 6—1-й пал. 7 ст. яны перажылі заняпад. С., якія пасяліліся ў гэтых гарадах, неўзабаве сталі прадпрымальнымі гандлярамі, мараходамі, навучыліся новым рамёствам, пачаўся ўздым гарадскога жыцця. Адміністрацыйная будова раннесярэдневяковых гарадоў Далмацыі была падобна на дзярж. будову некаторых італьянскіх гарадоў.

Да сярэдзіны 7 ст. С. засялілі ўвесь Балканскі паўвостраў і толькі каля буйных візантыйскіх гарадоў і на Пд ад Пелапанеса працягвала жыць грэчаскае насельніцтва. Параўнальна невял. групы С. аселі на астравах Эгейскага мора, дасягнулі Малой Азіі і Апенінскага паўвострава. На вялізнай прасторы Балкан ад вярхоўя Маравы на З да Чорнага мора на У і гал. Балканскага хрыбта на Пд рассяліліся слав. плямёны, якія сталі асновай народнасці, што атрымала назву балгары. Сярод іх вылучаюцца прыдунайскія северы (або севяране) і 7 плямён у Ніжняй Мезіі. Саюз гэтых плямён у 670-х г. стаў асновай Першай Балгарскай дзяржавы. У яе ўтварэнні пэўная роля належала цюркскаму племю качэўнікаў-балгар, што захапілі Дабруджу. Усе гэтыя землі належалі Візантыі. Ва ўмовах бесперапынных войнаў С. і балгары-цюркі пад кіраўніцтвам Аспаруха ў 681 атрымалі буйную перамогу над Візантыяй, што і прывяло да ўтварэння балгарскай дзяржаўнасці. Слав. дзяржава пачала называцца Балгарыяй паводле этнічнай прыналежнасці яго першых правіцеляў-ханаў з дынастыі Аспаруха. Ва ўмовах развіцця дзяржаўнасці цюркі-балгары поўнасцю былі асіміляваны С., але ўсё насельніцтва стала называцца балгарамі. У Македоніі ў 7 ст. былі вядомы слав. плямёны — драговічы (другувічы), сагудаты, рынхіны, струменцы, смаляне, берзакі. Частка іх увайшла ў склад Балгарскай дзяржавы. У зах. Македоніі ўтварылася незалежнае княства, вядомае пад назвай Склавініі. Македонцы з'яўляюцца нашчадкамі слав. плямён, якія тут рассяліліся. Пра рассяленне С. на тэр. Грэцыі ёсць шматлікія, хоць і ўрывачныя звесткі візантыйскіх аўтараў 6—7 ст. Пра гэта ж сведчаць матэрыялы моваэнаўства і тапанімікі. Звесткі археалогіі пакуль што нешматлікія і фрагментарныя. Рассяленне С. на тэр. Грэцыі пачалося ў 578 і закончылася ў 630-х г., С. панавалі тут да канца 8 ст., але ў 9 — пач. 10 ст. на гэтай тэр. адноўлена ўлада Візантыі і С. паступова былі асіміляваны грэчаскім этнасам, пры гэтым слав. мова аказала ўплыў на грэчаскую.

Усходнееўрапейская раўніна асвоена некалькімі патокамі С. з розных дыялектна-этнаграфічных зон праслав. арэала. Славянскае насельніцтва Усх. Еўропы было даволі разнародным у культурных адносінах. Ва ўмовах стабілізацыі жыцця тут сталі фарміравацца племянныя саюзы, кожны са сваімі этнаграфічнымі асаблівасцямі. На Валыні і правабярэжжы Сярэдняга Падняпроўя пражская культура карчакскага тыпу паступова эвалюцыяніравала ў культуру тыпу Лукі Райкавецкай (8—9 ст.). Характар пасяленняў і домабудаўніцтва захаваўся ранейшы, але прыкметна развілася кераміка, паявіліся ўмацаваныя пасяленні. Найбольш вядомымі гарадзішчамі з'яўляюцца паселішчы рамеснікаў Зімна на Валыні і гарадзішча-сховішча для навакольнага насельніцтва *Хатомель* у нізоўях р. Гарынь. Шырока распаўсюджваецца курганны абрад пахавання. Курганы — паўсферычныя насыпы выш. каля 1 м, дыям. каля 10 м — звычайна ўтрымліваюць па некалькі розначасовых трупасаленняў, пераважна бязурнавых і без інвентару, што, як адзначаў Нідэрле, характэрна для ўсяго слав. свету. Этнонім племяннной групоўкі, якая пакінула старажытнасці Лукі Райкавецкай,— *дулебы.* Рускія летапісы лакалізуюць іх на Валыні. З гэтай групоўкі ў далейшым выйшлі 4 племянныя ўтварэнні — *валыняне* (у т. л. *бужане*), *драўляне,* паляне і *дрыгавічы.* Іх рэгіёны размяжоўвалі больш ці менш шырокія незаселеныя палосы балот і лясоў. У насельніцтва гэтых плямён захавалася аднароднасць жаночага адзення і ўпрыгожанняў. Для іх былі характэрны пярсцёнкападобныя паўтараабаротныя скроневыя кольцы, сціпласць ва ўпрыгожаннях і поўная адсутнасць нагрудных падвесак і шыйных грыўняў. Разам з тым у кожнай з дулебскіх племянных груп сфарміраваліся этнаграфічныя асаблівасці, адлюстраваныя ў дэталях пахавальнай абраднасці. У 9—10 ст. на змену курганам — калектыўным магільным скляпам — прыйшлі паўсферычныя насыпы з індывідуальнымі пахаваннямі па абраду трупаспалення. Для валынян, што засялялі вобласці верхняга цячэння Зах. Буга і зах. Валынь, былі характэрны курганы, у якіх рэшткі крэмацыі змяшчалі пераважна ў асновах насыпаў. Асаблівасцю курганоў драўлян, што былі іх усх. суседзямі і насялялі лясныя паўд. вобласці Прыпяцкага Палесся, з'яўляецца наяўнасць вышэй пахаванняў попелу і вугольчыкаў. Відавочна у гэтым рэгіёне быў пашыраны рытуал распальвання агню пасля пахавання. Кіеўскае Падняпроўе было вобласцю рассялення палян. Дэталлю, уласцівай выключна палянскім курганам, з'яўляецца гліняная падмазка ў ніжняй частцы насыпу, на якой распальваўся рытуальны касцёр і змяшчаліся рэшткі трупаспалення. Менш выразна вылучаюцца курганы дрыгавічоў, якія рассяліліся абапал Прыпяці і ў басейне яе левых прытокаў. Аднак вобласць дрыгавічоў добра акрэсліваецца па курганах 11—12 ст., калі ў іх асяродку атрымалі пашырэнне буйныя металічныя пацеркі, пакрытыя зерню. Такія пацеркі сталі этнавызначальнай прыкметай старажытнасцей дрыгавічоў. У гэты час іх тэр. на Пн дасягнула Мінска, на З — Бярэсця, на У — Дняпра. Пераход ад абраду трупаспалення да пахавання-інгумацый у такіх жа курганах пачаўся яшчэ ў язычніцкі перыяд. Трупапалажэнне на землях валынян і палян шырока распаўсюдзілася ўжо ў 10 ст. Змена пахавальнай

абраднасці ў драўлян і дрыгавічоў пазначаецца канцом 10 — пач. 11 ст. Паводле звестак рус. летапісаў, валыняне, драўляне, паляне і дрыгавічы мелі свае палітычныя фарміраванні — «княжанні». Насельніцтва кожнай з гэтых племянных груповак, відаць, аб'ядноўвалася для сумесных мерапрыемстваў, мела агульнае веча, саветы старэйшын, племянную дружыну. Адным з племянных князёў палян, мусіць, быў легендарны Кій — заснавальнік Кіева, які стаў цэнтрам палян. Летапіс называе яшчэ Мала — князя драўлян, іх цэнтрам быў Іскарасцень. Цэнтрам дрыгавічоў, відаць, быў Тураў.

У Паўн. Прычарнамор'і на тэр. антаў летапіс лакалізуе 3 племені — харватаў, ціверцаў і ўлічаў. Харваты — адно са стараж. анцкіх плямён. Гэты этнонім мае іранскае паходжанне і, відавочна, узыходзіць да эпохі славяна-іранскага сімбіёзу. У выніку шырокага рассялення харваты ў раннім сярэднявеччы разышліся ў розныя бакі, таму гэты этнонім зафіксаваны ў Далмацыі, Чэхіі і Малапольшчы. Усходнеслав. харваты жылі ў Верхнім Падняпроўі, іх рэгіён вызначаюць т. зв. падплітавыя магілы. Гэта грунтавыя пахаванні па абраду інгумацыі, абазначаныя на паверхні каменнымі плітамі памерамі 1,5—2,2×
×0,4—1 м, датуюцца 10—12 ст. Іх характэрным жаночым упрыгожаннем былі пярсцёнкападобныя скроневыя кольцы з адным або двума канцамі, загнутымі ў адваротных напрамках. Ціверцы жылі ў міжрэччы Днястра і Прута. Іх этнонім утвораны ад Ціраса — антычнай назвы Днястра. Іх пахавальнымі помнікамі з'яўляюцца бескурганныя могільнікі з пахаваннямі па абрадах трупаспалення і трупапалажэння, але яны вывучаны недастаткова. Затое добра вядомы шматлікія селішчы з жытламі-паўзямлянкамі. Пачынаючы з 9 ст. яны будавалі і ўмацаваныя паселішчы-гарадзішчы. Найбольш вывучаным з іх з'яўляецца гарадзішча Якімаўцы. Яго авальная пляцоўка памерам 86×70 м умацавана кальцавым валам выш. 4 м і ровам глыб. 4 м. Сярод знаходак — інструменты раменнікаў і вырабы кавалёў, ювеліраў і касцярэзаў. Спецыфічныя ціверскія ўпрыгожанні невядомы. Карэннай тэрыторыяй уліч аў да 10 ст. было Падняпроўе ў раёне Дняпроўскай лукі і парогаў, на З яна дасягала Паўд. Буга. Тут вядомы шматлікія іх паселішчы і адзінкавыя бескурганныя могільнікі. На працягу 9—1-й трэці 10 ст. кіеўскія князі вялі ўпартую барацьбу з улічамі. У пач. 10 ст. недзе на Дняпры стаяў уліцкі горад Перасечан, які пасля трох гадоў аблогі ў 940 захоплены кіяўлянамі, пасля чаго ўлічы перасяліліся на Паўд. Буг.

**Севяран** летапісы лакалізуюць на трох рэках Дняпроўскага левабярэжжа — Дзясне, Сейме і Суле. Самай стараж. іх культурай была раменская. Курганы з трупаспаленнямі ў севяран паявіліся ў 9—10 ст. і не маюць якіх-небудзь спецыфічных асаблівасцей. У 11—12 ст., калі пашырыўся абрад трупапалажэння пад курганамі, надзейнай іх этнаграфічнай прыкметай становяцца спіральныя скроневыя кольцы. Цэнтрам гэтага племяннога саюзу быў Чарнігаў. Арэалам **вяцічаў** быў басейн Акі, а найстаражытнейшай вобласцю іх пражывання — вярхоўе ракі, адкуль ішло паступовае рассяленне ва ўсх. і паўн.-ўсх. напрамках. Ужо ў 8—9 ст. у вяцічаў пашырыўся звычай збудавання пахавальных насыпаў — паўсферычных курганоў з драўлянымі камерамі-дамавінамі ўсярэдзіне. У іх на працягу доўгага часу змяшчаліся рэшткі трупаспаленняў, якія рабіліся звычайна па-за межамі могільнікаў на спец. пахавальных вогнішчах. У многіх вяціцкіх курганах зафіксаваны кальцавыя агароджы з вертыкальных слупоў. Аднак, гэта не з'яўляецца іх спецыфічнай рысай. Такія канструкцыі зрэдку трапляюцца і ў іншых месцах рассялення С. Сінхронныя пасяленні вяцічаў — селішчы і гарадзішчы з жытламі-паўзямлянкамі і наземнымі пабудовамі. Вяцічы, якія рассяліліся ў 10—11 ст. у Падмаскоўі, асімілявалі балцкае племя голядзь, а на сярэдняй Ацэ — паволжска-фінскае насельніцтва. Гэта адлюстравана ў жаночым касцюме 11—12 ст., які характарызуецца багаццем і разнастайнасцю металічных упрыгожанняў. Характэрнымі для вяцічаў сталі сямілопасцевыя скроневыя кольцы са скуры або шарсцяной тканіны, якія насілі на галаўной стужцы, часам упляталі ў валасы, а таксама каралі з хрусталёвых шарападобных пацерак, якія чаргаваліся з сердалікавымі біпірамідальнымі. У гэты час атрымаў пашырэнне абрад трупапалажэння. Некаторыя даследчыкі лічылі вяціцкім і слав. насельніцтва, якое жыло ў раннім сярэднявеччы на Доне. Аднак абгрунтаваных доказаў для такога сцвярджэння няма. Відавочна, славяне, што засялялі сярэдняе і верхняе цячэнне Дона, складалі асобную племянную групоўку, назва якой не зафіксавана летапісамі.

*Радзімічаў* летапісы лакалізуюць на Сажы. Яны рассяліліся тут адносна позна — у 9 ст. і засталі дняпроўскіх балтаў, якія на працягу 2—3 стагоддзяў былі славянізаваны. Таму ў радзіміцкіх курганах фіксуюцца балцкія элементы і ў абраднасці, і ў рэчавым інвентары. Па знешнім выглядзе і будове курганы радзімічаў не вылучаюцца сярод суседніх. У 9—10 ст. у іх панаваў абрад крэмацыі памерлых, у 11—13 ст. — трупапалажэння. Пахавальны інвентар даволі разнастайны. Уласна радзіміцкімі з'яўляюцца сяміпрамянёвыя скроневыя кольцы. Да распаўсюджаных іх упрыгожанняў належаць гронкападобныя біэліпсоідныя і пятлістыя падвескі.

Нашчадкамі носьбітаў культуры ранніх *доўгіх курганоў* былі крывічы пскоўскія, якія насялялі басейн р. Вялікай і воз. Пскоўскага. Спецыфічнай асаблівасцю іх курганоў і з трупаспаленнямі (9—10 ст.), і з трупапалажэннямі (11—13 ст.) з'яўляецца наяўнасць попельна-вугальнай праслойкі ў аснове таго ж тыпу, што і ў ранніх доўгіх курганах. Пахаванні пскоўскіх крывічоў бедныя на інвентар, характэрных племянных упрыгожанняў у іх не было. Пскоўскія крывічы стварылі палітычную племянную арганізацыю, верагодна, з цэнтрам у Ізборску, якая прыняла ўдзел ва ўтварэнні дзяржаўнасці ў Паўн. Русі. Ізборск заснаваны крывічамі на рубяжы 7—8 ст. Вынікі яго грунтоўнага даследавання даюць яскравую карціну эвалюцыі аднаго з племянных цэнтраў С. у раннесярэдневяковы горад. Паводле летапіснага падання пра закліканне на Русь скандынаваў-варагаў, у Ізборску княжыў Трувор. Вялікай асобнай племяннай групоўцы крывічоў належалі Смаленскае Падняпроўе і Полацка-Віцебскае Падзвінне. С., што рассяляліся тут, засталі балцкае насельніцтва, якое паступова было славянізавана. Смаленскія і полацкія доўгія курганы з'яўляюцца адносна познімі і датуюцца 8—10 ст. Ад пскоўскіх яны адрозніваюцца сваёй будовай (меншыя памеры, няма попельна-вугальных праслоек у аснове, пахаванні нярэдка змяшчалі ў гліняныя урны на рытуальных вогнішчах і інш.) і наяўнасцю вял. колькасці прадметаў, у т. л. ўпрыгожанняў балцкага тыпу. У 11—13 ст. характэрнымі скроневымі ўпрыгожаннямі смаленска-полацкіх крывічоў былі бранзалетападобныя кольцы з завязанымі канцамі, якія прымацоўваліся да галаўнога ўбору пры дапамозе скураных раменьчыкаў. Сярод нагрудных ўпрыгожанняў, якія насілі на шнурках ці на ланцужках, у землях смаленскіх крывічоў і палачан часта трапляюцца амулеты-канькі, аздобленыя цыркульным арнаментам. На тэр. смаленскіх крывічоў даследаваны Гнёздаўскі курганны могільнік — адзін з найбуйнейшых помнікаў рус. дружыннікаў 9—10 ст. Паводле летапісаў, смаленскія крывічы і палачане мелі пераддзяржаўныя ўтварэнні — племянныя «княжанні» з цэнтрамі ў Смаленску і Полацку. У **ільменскіх славен** у 11—12 ст. былі пашыраны ромбашчытковыя скроневыя кольцы і бронзавыя або сярэбраныя тонкапласцістыя налобныя венчыкі. Многія паўсферычныя іх курганы мелі кальцавую каменную абкладку каля падножжа. Пачынаючы з 12 ст., у вобласці рассялення славен паступова пашырыліся жальнікі — грунтавыя пахаванні, пазначаныя на паверхні кальцом або авалам з валуноў (бытавалі да 15 ст.). Рускія летапісы і арабскія крыніцы сведчаць, што на ПнЗ Усх.-еўрап. раўні-

ны склалася ранняе дзярж. ўтварэнне, якое папярэднічала адзінай Рускай дзяржаве з цэнтрам у Кіеве. Арабскія аўтары называлі яе Славіяй. Паданне пра закліканне варагаў, якое трапіла ў рус. летапісы не раней канца 11 ст., апавядае пра гэта так: у сувязі са сваркамі, якія ўзніклі ўнутры славяна-фінскага племяннога саюзу, што аб'ядноўваў славен, крывічоў, чудзь і меру, у 862 былі запрошаны на княжанне тры браты-варагі. Рурык пачаў княжыць у Ноўгарадзе, Трувор у Ізборску, а Сінеус ва ўласна фінскай частцы — Белавозеры (або Ладазе). Праз 2 гады Рурык аб'яднаў гэтыя тры часткі ў адзінае княства. Цэнтрам ільменскіх славен быў Ноўгарад. Аднак самыя стараж. адкладанні культурнага пласта ў ім датуюцца пач. 10 ст. Відавочна, племянным цэнтрам славен і іх раннедзяржаўнага ўтварэння было Наўгародскае (Рурыкава) гарадзішча, размешчанае каля вытоку Волхава насупраць племяннога свяцілішча Перуна (урочышча Перынь).

Дзве буйныя вобласці Усх. Еўропы асвойваліся С. адносна позна. Хоць інфільтрацыя С. у Волга-Окскае міжрэчча пачалася ў 8—9 ст., значныя масы С. праніклі ў гэты рэгіён толькі ў 10—11 ст. Міграцыя ажыццяўлялася па 2 гал. напрамках — з ПнЗ з зямель ільменскіх славен і з Верхняга Падняпроўя — краіны крывічоў. Асваенне Волга-Окскага міжрэчча суправаджалася асіміляцыяй мясц. фінамоўнага насельніцтва. У тыя ж стагоддзі С. засялялі і Верхняе Панямонне, дзе раней жыло балцкае племя *ятвягаў*. Тут першая хваля міграцыі С. ішла з Валыні, другая — з зямель полацкіх крывічоў, фіксуецца і пранікненне дрыгавічоў. У выніку ўзаемадзеяння розных племянных груповак у Верхнім Панямонні склалася стракатае ў этнічных адносінах насельніцтва. Таму побач са звычайнымі ўсх.-слав. курганамі трапляюцца пахавальныя насыпы, складзеныя з каменю або з выкарыстаннем каменю, а ў 13—14 ст. пашырыліся бескурганныя могільнікі з каменнымі вымасткамі на паверхні.

Мяжа паміж праслав. і ўсх.-слав. мовамі лінгвістамі датуецца па-рознаму. Паводе М. М. Дурнаво, гэта 10—12 ст., М. С. Трубяцкой адзначаў, што ў 10—12 ст. славянская мова яшчэ перажывала агульныя моўныя працэсы. Аднак Ф. П. Філін меркаваў, што ўжо ў 8—9 ст. пачалі ўзнікаць фанетычныя з'явы, якія сталі характэрнымі для ўсх.-слав. моўнай агульнасці. Усё ж зусім бясспрэчна можна гаварыць пра развіццё ўсх.-слав. мовы толькі з 10—11 ст., таму найноўшыя доследы вызначаюць канец агульнаслав. мовы 800—1000 г. А. А. Шахматаў лічыў, што ядром усх. С. былі анты. Ратуючыся ад авараў, значная частка іх у 6 ст. быццам бы рассялілася на Валыні і ў Сярэднім Падняпроўі. Гэтыя землі, паводле Шахматава, і былі «калыскаю рускага племені», з гэтага часу і пачалася гісторыя ўсх. С. і іх моў. Пазней адсюль быццам бы ўсх. С. і рассяліліся па ўсёй Рускай раўніне. Думкі пра тое, што пад антамі, якія ўпамінаюцца ў візантыйскіх крыніцах, тояцца ўсх. С., выказвалі і іншыя вучоныя. Паводле Рыбакова, ядром усх. славянства быў племянны саюз русаў, які быццам бы сфарміраваўся ў 6—7 ст. у Сярэднім Падняпроўі. На думку Траццякова, складанне ўсх. С.— вынік змяшэння славян, якія рассяліліся ў першых стагоддзях н. э. ў Верхнім Падняпроўі, з мясцовымі дняпроўскімі балтамі. Філін лічыць, што асновай усх. С. былі плямёны зарубінецкай культуры.



Да арт. **Следавікі**. Камень-следавік каля в. Макасічы Валожынскага р-на.

Але найбольш доказаў, што Рускую раўніну С. асвойвалі некалькімі, рознымі па культуры міграцыйнымі патокамі. Культура С. ва Усх. Еўропе напярэдадні ўтварэння Старажытнарускай дзяржавы была вельмі разнастайнай і ў выніку ўздзеяння рознаэтнічнага субстратнага насельніцтва (фіна-угорскіх і балцкіх плямён, а на Пд і цюркскамоўных качэўнікаў). Фарміраванне ўсх.-слав. народнасці і мовы адбывалася ва ўмовах інтэграцыі рознаплемяннога слав. насельніцтва і славянізаваных балцкіх і фіна-угорскіх плямён. Пачаўся гэты працэс у 9—10 ст. Рухаючымі сіламі інтэграцыі былі: устанаўленне адзінай дзяржаўнасці з цэнтрам у Кіеве, якая звязала ўсіх С. Усх. Еўропы агульнасцю палітычнага жыцця; складанне адзінага дружыннага саслоўя, якое мела надплемянны характар; станаўленне раннесярэдневяковага горада, рост колькасці гарадоў і бурнае развіццё гар. жыцця. Насельніцтва гарадоў фарміравалася на міжплемянной аснове. Гарады сталі цэнтрамі адзінай стараж.-рус. культуры і рамяства і аказвалі істотнае ўздзеянне на вёску; распаўсюджанне хрысціянства на Русі, роля якога неацэнная ў фарміраванні агульнарус. духоўнай культуры, развіцці пісьменнасці, асветы, літаратуры і мастацтва. Аб складанні ўсх.-слав. моўнай агульнасці шляхам інтэграцыі некалькіх дыялектаў праслав. мовы сведчаць і даныя сучаснай лінгвістыкі (А. А. Залізняк, Г. А. Хабургаеў).

*Літ.:* 54, 130, 306, 451, 794, 824, 906, 906а, 938, 1015, 1052, 1060, 1162, 1209, 1246, 1410, 1422, 1456, 1459, 1460, 1470, 1471, 1506, 1507. *В. В. Сядоў.*

**СЛАЎГАРАД** (да 1945 Прапойск), горад, цэнтр Слаўгарадскага р-на, прыстань на р. Сож пры ўпадзенні ў яе р. Проня. За 68 км на ПдУ ад Магілёва, 58 км ад чыг. ст. Крычаў, на аўтадарозе Бабруйск — Крычаў.

Старaж. гарадзішча С. пад назвамі «Замкавая гара», пазней «Замак Галіцына» размешчана на правым беразе Сажа, каля вусця р. Проня, у гар. парку. Пляцоўка гарадзішча (95×40 м) выцягнута з Пн на Пд і ўзвышаецца на 21 м над жнівеньскім узроўнем вады ў Сажы. Усходні схіл з боку ракі ўяўляе сабой амаль вертыкальны абрыў, паўднёвы — пакаты, выш. 13 м. З зах. боку поля гарадзішча ўмацавана ровам шыр. каля 20 м і глыб. больш за 11 м, па дне якога працякаў ручай. З Пн яно аддзелена ад тэр. старaж. гандлёва-рамеснага пасада ровам глыб. 4,5 м і шыр. 18 м. Гарадзішча абследавалі А. М. Ляўданскі, А. Дз. Каваленя, В. М. Мельнікоўская, даследавалі ў 1967 Г. В. Штыхаў, у 1974 М. А. Ткачоў, у 1988 А. А. Мяцельскі. Ускрыта 120 м². Культурны пласт 0,4—2,8 м, складаецца з трох гарызонтаў.

У верхнім гарызонце (14—17 ст.) знойдзены ганчарны посуд, разнастайная кафля, сашнік. Напластаванні 10—13 ст. адрозніваюцца больш цёмным колерам. У іх выяўлены шкляныя бранзалеты, пацеркі, шыферныя прасліцы, касцяныя грабяні і апрацаваныя загатоўкі касцей, каса, рыбалоўныя кручкі, ганчарны посуд. У перадмацерыковым пласце знойдзены ляпны посуд мілаградскай і штрыхаванай керамікі культур, а таксама кераміка роменска-боршаўскага тыпу 8—10 ст. На тэр. гарадзішча ў 13 ст. ўзнік *Прапойскі замак.*

С. упершыню згадваецца ва Устаўной грамаце Расціслава Мсціславіча ў 1136 (старaж. назва Прупой, Пропошеск). Уваходзіў у склад Смаленскага княства. З 1350-х г. у ВКЛ, дзярж. уладанне ў складзе т. зв. Падняпроўскіх валасцей, з 1560-х г. цэнтр староства ў Мсціслаўскім ваяводстве. З 1772 у складзе Расійскай імперыі, падараваны Кацярынай II кн. А. М. Галіцыну, заштатны горад, потым мястэч-

ка, цэнтр воласці Быхаўскага пав.
*Літ.:* 45, 848, 1193, 1357.
*А. А. Мяцельскі, М. А. Ткачоў.*

**СЛЕДАВІКІ**, камяні-валуны з поўнасцю ці часткова выбітай выявай слядоў чалавека (імітацыя босай ці абутай ступні або рукі) або розных жывёл ці міфічных істот. Распаўсюджаны ў Еўропе і Азіі, трапляюцца ў Афрыцы. С.— праяўленне язычніцкіх культаў. Ёсць падставы лічыць, што культ камянёў-С. узнік у бронзавым веку, паводле меркавання А. А. Фармозава, у 2-м тысячагоддзі н. э. Паводле шведскага археолага Б. Альмгрэна, у 2-й пал. 2-га тысячагоддзя да н. э. існавала строгая забарона ствараць выявы божастваў. Але зварот да нябачнага бога вымушаў чалавека шукаць адзнакі яго бачнай прысутнасці. У сувязі з гэтым з'явіліся выявы «слядоў Бога». На Беларусі вядома больш за 70 С., сканцэнтраваных пераважна на Пн і ў цэнтры. Найбольш вядомыя з іх каля вёсак Дзераўно (Лагойскі р-н), Куцаўшчына (Капыльскі р-н), Малькавічы (Ганцавіцкі р-н), Наўгароды (Міёрскі р-н), Сянежычы (Навагрудскі р-н) і інш. Мясц. назвы С.: Божы след (слядок), След Божай Маці, След Хрыста, Чортава ступня і інш. Найбольш пашыраны С. са слядамі чалавека. У большасці выпадкаў адзін, бывае два (звычайна след дарослага і дзіцяці) і больш. Велічыня следу звычайна натуральная, глыб. 1—3 см. Побач са слядамі чалавека могуць быць выбіты ямкі, капыты. Сустракаюцца камяні і са слядамі жывёл (аленя, зайца, мядзведзя, лісіцы, ваўка, быка, казы, ката). Аб большасці С. бытуюць паданні, паводле якіх раней камяні нібыта былі мяккімі і розныя істоты пакідалі на іх сляды. Вада са слядоў лічыцца святой і гаючай, да камянёў носяць ахвяраванні. З пашырэннем хрысціянства многія С. набылі функцыі *прошчаў*.
*Літ.:* 813, 1068, 1252, 1253, 1403, 1407, 1495.
*Л. У. Дучыц, Э. М. Зайкоўскі.*


Фібулы (1, 3), касцяны кружок (2), іголка (4), крэсівы (5, 12), ланцужок (6), прылада для пляцення сетак (7), пракалка (8), бранзалеты (9, 15), абойма (10), наканечнікі стрэл (11, 18), шахматная фігура (13), падвеска (14), запінка (16), трубачка (17), рыбалоўныя кручкі (19, 21), прасліца (20) з замчышча **Слоніма**.

**СЛОНІМ**, горад, цэнтр Слонімскага р-на, на р. Шчара пры ўпадзенні ў яе р. Іса.

Замчышча стараж. С. размешчана ў цэнтры сучаснага горада, у межах вуліц Першамайскай, Савецкай, імя Энгельса, Маякоўскага. Пляцоўка чатырохвугольная, з Пд і У абмежавана стромкімі схіламі, з Пн і З — шырокімі равамі. Даследавалі ў 1959 Г. І. Пех (ускрыў 62 м$^2$) і Я. Г. Звяруга (168 м$^2$). Культурны пласт 5 м добра захаваў арганічныя рэчы, у т. л. дрэва, скуру і інш. У пластах 11—15 ст. выяўлены насцілы вуліц з тонкіх бярвён і плашак. Адна вуліца шыр. 4,2—6,5 м праходзіла з Пн на Пд, другая шыр. 3—4 м прылягала да яе на З. Абапал вуліц — рэшткі жылых і гасп. пабудоў памерамі ад 4 м$^2$ (гасп. пабудовы) да 20 м$^2$ (жылыя дамы). Большасць пабудоў — зрубныя, з хвойных парод дрэў, рублены «ў абло». Гасп. пабудовы слупавой канструкцыі. У кутах дамоў каля ўвахода размяшчаліся печы. Насельніцтва займалася сельскай гаспадаркай, хатнімі промысламі і рамёствамі: ганчарным, апрацоўкай дрэва, косці, шавецкай справай і інш., пра што сведчаць знойдзеныя разнастайныя вырабы з жалеза, каляровых металаў, шкла, дрэва, косці, скуры і тканін.

Знойдзены прывазныя вырабы: шыферныя прасліцы, шкляныя бранзалеты з чырв. гліны, рыфлёныя амфары кіеўскага тыпу, бронзавая фібула з патоўшчанымі канцамі, шкляная пасудзіна з арабскім надпісам і інш. Сярод прадметаў узбраення і рыштунку конніка — жал. шлем з наноснікам, разнастайныя тыпы шпор, скрэбла для чысткі коней.

Адначасова з замчышчам існавалі ўмацаваныя паселішчы ва ўрочышчах Косаўскі тракт (паўд. ўскраіна горада; пл. каля 1,8 га, было ўмацавана валам выш. каля 5 м) і Малева, або Акураўшчына (паўн. ўскраіна; пл. каля 0,5 га). У ваколіцах старажытнага С. былі і неўмацаваныя паселішчы. Абследавалі ў 1963 В. Р. Супрун, у 1974 Л. Д. Побаль. Знойдзены фрагменты керамікі 6—8 ст., ганчарнай керамікі раннефеадальнага часу.

Старажытны С. узнік як крэпасць на зах. рубяжах стараж.-рус. дзяржавы. У 2-й пал. 12 ст. стаў цэнтрам рамяства і гандлю. Упершыню ўпамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1252 пад назвай Услонім (В о с л о н и м, В с л о н и м). У сярэдзіне і 2-й пал. 13 ст. некалькі разоў пераходзіў да галіцка-валынскіх, літоўскіх князёў. Каля сярэдзіны 13 ст. ім валодаў сын Міндоўга Войшалк, у 1255 ён перадаў горад сыну Данілы Раманавіча Галіцкага — Раману. У 1258—59 С. пад уладай Літвы. У 1280-я г. горадам правіў «князь Вослонимсий» Васілька. У канцы 13 ст. канчаткова ўвайшоў у склад Вял. кн. Літоўскага (з 1413 у Трокскім, з 1507 у Навагрудскім ваяводствах). У 1276 вял. кн. літоўскі Трайдзень пасяліў у ваколіцах горада прусаў (на думку некаторых даследчыкаў, *ятвягаў*).
*Літ.:* 434, 766, 884. *Я. Г. Звяруга.*


Шлем (1), затычка (2), точаныя пасудзіны (3, 16), нажніцы (4), бронзавы збаночак (5), замок (6), грабеньчык (7), скрабніца (8), наканечнік стралы (9), наканечнік дроціка (10), шпоры (11—13), верацяно (14), паплавок (15) з замчышча **Слоніма**.

**СЛОНІМСКІ ІДАЛ**, выява язычніцкага бажаства, знойдзеная ў 1934 на ўскраіне г. Слонім. Скульптура памерам 46×22×15 см. Высечана з пясчанага вапняку ў выглядзе мужчынскага торса без рук, твар даволі плоскі з завостранай бародкай і шырокім носам з гарбінкай; добра абазначана шыя, выразна пракрэслены вочы і рот. Фігура рэльефная з усіх бакоў. Ніз скульптуры клінападобны, відаць, таму, што яе ўстаўлялі

ў спец. пастамент. Зберагаецца ў *Слонімскім краязнаўчым музеі.*

*Літ.:* 1129. *Л. У. Дучыц.*

**СЛО́НІМСКІ КРАЯЗНА́ЎЧЫ МУЗЕ́Й.** Заснаваны ў 1929 г. ў г. Слонім І. І. Стаброўскім на базе ўласных калекцый. У Вял. Айчынную вайну часткова разбураны. Адноўлены ў 1946 як Баранавіцкі абл. гісторыка-краязнаўчы музей. У 1952 значная частка фондаў забрана ў Баранавічы для заснавання там абл. музея. З астатніх фондавых адзінак (каля 1250) створаны раённы краязнаўчы музей. Цяпер у ім захоўваецца больш за 18 тыс. фондавых адзінак экспанатаў (1991), у т. л. 1,2 тыс. археал. знаходак. У экспазіцыі — матэрыялы з раскопак у Слоніме, стаянкі *Русакова,* а таксама крамянёвыя і каменныя прылады працы эпох неаліту і бронзы, знойдзеныя на тэр. раёна (крамянёвыя цёслы, нажы, праколкі, скрабкі, наканечнікі стрэл, каменныя свідраваныя сякеры, матыка, зерняцёрка і інш.). Кераміка прадстаўлена розначасовым штрыхаваным і гладкасценным багата арнаментаваным посудам. Экспануюцца шкляныя рознакаляровыя і бронзавыя бранзалеты, пацеркі, фрагменты тканіны і абутак 13 ст., вырабы з металу, дрэва, косці, язычніцкі *Слонімскі ідал* і інш. У нумізматычнай калекцыі каля 5 тыс. грашовых адзінак, з якіх 4300 — скарб польскіх і літоўскіх манет 16—18 ст. Ёсць манеты Рус. дзяржавы, Швецыі, Даніі і інш.

*В. Р. Супрун.*

**СЛО́НІМСКІЯ ЗА́МКІ.** Існавалі ў 13—18 ст. Размяшчаліся на левым беразе р. Шчара. Умацаваным цэнтрам сярэдневяковага *Слоніма* быў Верхні замак, які займаў узвышша памерам 150×200 м. Замкавая пляцоўка мела форму няправільнага прамавугольніка, узвышалася над ракой на 3—4 м, была абаронена ровам шыр. 15—18 м і глыб. каля 8 м. У 14—18 ст. побач з Верхнім размяшчаўся Ніжні замак, які займаў падковападобную пляцоўку, ахоўваўся валам і вадзяным ровам. Нягледзячы на наданне ў 1531 Слоніму магдэбургскага права, ён у адрозненне ад інш. падобных гарадоў ніколі не меў уласна гар. умацаванняў. З ПдЗ горад абкружалі высокія ўзвышшы, што панавалі над усім наваколлем, і ўзвядзенне каля іх падножжа абарончых збудаванняў не мела сэнсу. Аднак паколькі сярэдневяковы Слонім не мог існаваць неабароненым, на ўездах у горад была размешчана сістэма мураваных цэркваў і кляштараў, якая закрывала шляхі ў горад. У рус.-польскую вайну 1654—67 яны ўсё ж не змаглі абараніць у 1655 абязлюдзелы Слонім. Пазней умацаванні С. з. аднавілі зноў і яны праіснавалі да канца 18 ст.

*М. А. Ткачоў.*

**СЛУПАВА́Я КАНСТРУ́КЦЫЯ,** старажытная архіт.-буд. сістэма, пры якой слупы падтрымлівалі пакрыццё (дах) або з'яўляліся элементам сцяны жылых і гасп. пабудоў, культавых збудаванняў. С. к. вядома з найстаражытнейшых часоў у многіх народаў свету як гістарычна першая буд. канструкцыя, асабліва ў раёнах, дзе буд. матэрыялам было пераважна дрэва.

На тэр. Беларусі С. к. вядома з эпохі мезаліту і неаліту, спачатку ў круглых або авальных у плане жытлах, асновай шатровага перакрыцця якіх з'яўлялся цэнтр. слуп. У познім неаліце і бронзавым веку, калі пачалі пераважаць прамавугольныя ці квадратныя ў плане жытлы, слупы размяшчалі не толькі ў цэнтры жытла, але і ў сцяне-агароджы, утвараючы іх аснову, і адначасова служылі апорай перакрыццяў. Вядомы ўласна слупавая канструкцыя, дзе элементы сцяны-агароджы заходзілі ў спец. вертыкальныя пазы ў слупах-шулах, і так званая «прыслупавая», пры якой слупы служылі падпорай сцен жытла. У раннім жал. веку ў плямён *мілаградскай культуры* слупы ставілі па вуглах жытлаў і па лініі сцен, прамежкі паміж імі запаўнялі плятнямі, радзей — тонкімі бярвёнамі, пакладзенымі адно на адно. Вільчык двухсхільнага даху апіраўся на цэнтр. слуп і слупы ў сцяне. Часам слупы для мацавання страхі выносілі за 1,5—2 м ад сцен жытла. У гэтым выпадку С. к. страхі ператваралася ў самастойную канструкцыю, амаль не звязаную з жытлом. Плямёны *зарубінецкай культуры* сцены ўзводзілі з тоўстых бярвён, канцы якіх мацавалі ў пазах слупоў. Плямёны *днепра-дзвінскай культуры* і *штрыхаванай керамікі культуры* выкарыстоўвалі слупавую і камбінаваную зрубна-слупавую канструкцыю: вуглы рубілі «ў обла», а падоўжныя сцены і дах мацавалі слупамі. Выкарыстанне вуглавых і прамежкавых слупоў характэрна і для плямён *банцараўскай культуры.* У 2—3 ст. на паўн. Беларусі С. к. пачала выцясняцца *зрубнай канструкцыяй.* Гэты працэс найб. актыўна адбываўся ў стараж.-рус. перыяд, калі жыллё цалкам стала зрубным. С. к. ў выглядзе закідной тэхнікі захавалася ў асноўным у гасп. збудаваннях — павецях, гумнах, хлявах, аборах і інш., дзе часам суіснавала са зрубнай канструкцыяй. У 16—18 ст. як варыянт С. к. вядома канструкцыя т. зв. «прускага муру», дзе аснову каркаса ўтваралі стойкі, бэлькі і падкосы, а запаўненне — цэгла ці гліна. На аснове С. к. ўзніклі разнастайныя элементы жылых, грамадскіх і культавых збудаванняў: падчэні (падсені) і галерэі, званіцы слупавой і каркаснай канструкцыі.

*Літ.:* 232, 460, 847, 848, 952.

*А. Р. Мітрафанаў.*



Слонімскі ідал.

**СЛУЦК,** горад абл. падпарадкавання, цэнтр Слуцкага р-на, на р. Случ. Эканамічны і культурны цэнтр, вузел чыгунак і аўтадарог. За 105 км на Пд ад Мінска.

Старажытнае гарадзішча С. ўзнікла ў раннім жал. веку на правым беразе р. Случ, у сутоках яе з р. Бычок (цэнтр сучаснага горада, непадалёку ад скрыжавання вуліц Леніна і Валадарскага). Археал. даследаванні гарадзішча пачалі ў 1929 А. М. Ляўданскі і С. А. Дубінскі. Знойдзены фрагменты ляпнога і ганчарнага посуду, металургічныя шлакі. У 1957 Э. М. Загарульскі заклаў шурф (3×1 м) і давёў распрацоўку культурнага пласта да драўляных канструкцый. У 1966 П. Ф. Лысенка даследаваў 36 м$^2$. Выяўлены рэшткі зрубаў, слупавых пабудоў, драўляных насцілаў і вастраколаў, прадметы матэрыяльнай культуры. Ім выказана меркаванне, што С. узнік на мяжы 11—12 ст. як цэнтр рамяства і гандлю. Гарадзішча займала выспу авальнай формы памерам 100×80 м, якая ўзвышаецца над поймай р. Случ на 5—7 м. У 1985—86 Л. У. Калядзінскі даследаваў 300 м$^2$. Выяўлены каменная вымастка, гасп. ямы, жал. сякеракельт, гліняныя прасліцы, фрагменты ляпнога гладкасценнага і штрыхаванага посуду. Знаходкі датуюцца 6 ст. да н. э. — 2—3 ст. н. э.

На паўд.-ўсх. ускраіне горада, на левым беразе Случы знаходзілася другое гарадзішча ранняга жал. веку. У пач. 1970-х г. яго абследаваў В. Б. Перхаўка. Знішчана ў час буд. работ.

У 11 ст. на месцы Слуцкага гарадзішча ўзнік дзядзінец. Ён займаў авальную пляцоўку пл. 0,6 га, умацаваную валам. Ядро вала было са шчыльнай чырвонай гліны, насып глініста-пясчаны (шыр. асновы 20—22 м, захаваўся на выш. 4 м). З боку поля быў роў глыб. 1,5—2 м, засыпаны у пач. 1960-х. Культурны пласт 3,4—4,2 м, падзяляецца на 7 стратыграфічных пластоў (3—7 пласты датуюцца 11—13 ст.), добра захоўвае рэшткі стараж. драўлянай забудовы, рэчы арганічнага і неарганічнага паходжання. Для забудовы С. характэрна сядзібная планіроўка. Ускрыты 3 вуліцы шыр. 2—2,4 м з дошак і драўляных плашчакоў на лагах, пад якія клалі дубовыя, хваёвыя або бярозавыя бярвёны. Уздоўж вуліц і паміж сядзібамі захаваліся рэшткі вастраколаў: укапаныя ў грунт слупкі ці плашчакі або пляцень, аснову якога складалі дубовыя калы. Выяўлена больш за 30 жылых і гасп. пабудоў 12—13 ст. Большасць іх зрубныя, захаваліся на 2—4 вянцы. Пл. жытлаў 9—20 м², клецяў і хлявоў 4—11 м². Пры ўзвядзенні гасп. пабудоў выкарыстоўвалася слупавая тэхніка «ў шулу». У некаторых пабудовах захавалася падлога (дошкі насцілалі на лагі, якія ўсякалі ў сцены зруба паміж 2-м і 3-м вянкамі), дзверы 2 тыпаў (з вушакамі з бярвён і дошак) і суцэльнае палатно (86×59 см), глінабітныя печы на слупавым апечку, з чарэнню, абкладзенай каменнем. У пласце 12 ст. выяўлены рэшткі зруба кузні (3,4×3,5 м) з печкай-каменкай, больш за 50 вырабаў з жалеза, у т. л. прылады для металаапрацоўкі, паўфабрыкаты і адходы кавальскага рамяства. У пласце 13 ст. захаваліся рэшткі металургічнай майстэрні (зруб пл. 16 м²) з вял. колькасцю металургічнага шлаку і каля 20 крыц вагой 350—1610 г. Адна з пабудоў 12—13 ст., відаць, была майстэрняй гарбара. Рэчы з раскопак дзядзінца сведчаць, што насельніцтва С. займалася апрацоўкай чорных металаў, косці, скуры, гліны, дрэва.

Знойдзены металічныя прылады працы (кавадла, зубілы, кернеры, долаты, малаток-цвікадзёр, нажы сталярныя і касцярэзныя, свердзел, разец такарнага станка, шылы, сякеры), прадметы хатняга ўжытку (нажы, нажніцы шарнірныя і спружынныя, цыліндрычныя замкі і ключы да іх, вушкі і абручы вядзёр, патэльні, чапяла, качарга, брытва 12 ст., дэталі бязмена 13 ст., скобы, прабоі, дзвярныя клямкі), зброя (наканечнікі кап'я, суліцы, стрэлы, крыжавіна мяча, гіра кісцяня, бронзавае наверша булавы, кольца ад кальчугі), рыштунак конніка і каня (стрэмя, шпоры, з іх адна інкруставана золатам, цуглі, падкова). Знойдзены вырабы з дрэва (рыдлёўкі, пранікі, шавецкая калодка, посуд, калатоўкі, вёслы), скуры (абутак, кашалькі, рамяні, рукавіцы), косці (накладкі на лук і калчан, гузікі, дзяржанні нажоў, праколкі), кераміка (гаршкі і міскі, грузіла), а таксама каменная формачка для вырабу зярнёных пацерак, бронзавыя і шкляныя бранзалеты, скроневыя кольцы, медная і бурштынавая падвескі, пярсцёнкі, каралі. Большасць рэчаў з каляровых металаў і шкла завезена ў С., які меў гандл. сувязі з Каўказам, Прычарнамор'ем, паўд.-рус. землямі, Прыбалтыкай. Жыхары С. займаліся земляробствам, жывёлагадоўляй, рыбалоўствам, лясным промыслам, паляваннем, садоўніцтвам. Знойдзены сярпы, косы, каменныя жорны, абгарэлае збожжа ячменю і канапель, костачкі сліў і вішань. Высокі ўзровень культуры характарызуюць пісалы, знаходкі з літарамі-меткамі, шахматныя фігуркі (пешкі, ладдзі, сланы і каралі). У С. быў каменны храм, узведзены ў 2-й пал. 12 ст. ў тэхніцы мяшанай муроўкі (захаваліся плінфа і вапняковыя плiткі).

На ПнУ ад дзядзінца ў 12—13 ст. існаваў вакольны горад памерам 40—80×150 м. Культурны пласт амаль не захаваўся. У 1987 шурфоўку рабіў Калядзінскі. Знойдзены кераміка 13—15 ст., шкляныя бранзалеты, шыферныя праслiцы. У 15 ст. на тэр. дзядзінца пабудаваны *Слуцкі Верхні замак*, на тэр. былога вакольнага горада — Ніжні замак. На ПдЗ ад дзядзінца, на правым беразе р. Бычок у канцы 16—17 ст. размяшчаўся **пасад**. Культурны пласт яго большы за 3 м захаваўся ў прыбярэжнай паласе і за 150—200 м ад ракі. У 1985 шурфоўку рабіў Калядзінскі. Выяўлены рэшткі гасп. пабудоў, вастракол, участак вуліцы, сабрана шмат керамікі (посуд, кафля, люлькі, цацкі), абутак, шкляны посуд (кварты, шклянкі, слоікі, бутэлькі), вырабы з косці і жалеза. На астатняй тэр. С. культурны пласт ад 60 да 20 см, знойдзены рэчы 17—18 ст.

С. (летапісны Случеск, упершыню ўпамінаецца ў «Аповесці мінулых гадоў» пад 1116, калі мінскі кн. Глеб Усяславіч прыйшоў ва ўладанні Уладзіміра Манамаха, «воевал Дреговичи и Случеск пожог...»). Да 1149 С. валодалі кіеўскія, потым чаргінаўскія князі. У 1160-я г. і з 1190-х г. да пач. 15 ст. цэнтр удзельнага княства, потым — намесніцтва. На пач. 13 ст. залежаў ад Галіцка-Валынскага княства. З 1320—30-х г. у Вял. кн. Літоўскім. У 15 ст. С.— буйны феад. горад. У пач. 16 ст. неаднаразова (1503, 1505, 1506, 1508, 1521) адбіваў напады крымскіх татар. З 1395 С.— уладанне Уладзіміра Альгердавіча і яго нашчадкаў — князёў Алелькавічаў. У 1582 падзелены паміж братамі Алелькавічамі на 3 часткі: Стары горад з умацаваннямі і замкамі на правым беразе Случы, Новы горад на левабярэжжы ракі і Востраў (прадмесце на ПнУ ад горада). Уніз па цячэнні р. Случ, на правым беразе, вакол праваслаўнага Траецкага (Трайчанскага) манастыра ўзнікла другое прадмесце — Трайчаны. У 1612—95, 1744—1832 С. належаў князям Радзівілам, у 1695—1744 — прынцэсам Нейбургскім. У 1630—40-я г. пераўтвораны ў горад-крэпасць (1200×1000 м), умацаваны землянымі валамі і ровам, меў 8 бастыёнаў і 3 равеліны ў паўн. частцы, равелін і 5 бастыёнаў у паўднёвай. На ўсх. ускраіне знаходзілася цытадэль. Уваход у горад быў праз мураваныя брамы (Віленскую, Капыльскую, Астроўскую, а таксама драўляную Навамейскую) з пад'ёмнымі мастамі, меў моцны гарнізон. У час вызваленчай вайны укр. і бел. народаў 1648—54, руска-польскай вайны 1654—67 паўстанцы і рус. войскі асаджалі С., але авалодаць горадам не маглі. У Паўн. вайну 1700—21 С. займалі шведскія і рус. войскі. У 1672—1705 пры княжацкім двары працавала друкарня. У 1738—55 тут існавала суконная мануфактура, з 1740-х г.— мануфактура шаўковых паясоў. У 1715—36 існаваў тэатр пры езуіцкай калегіі (засн. ў 1707), у 1751—60 — княжацкі тэатр, які меў каля замка асобнае памяшканне («камедыхаўз»). Да канца 18 ст. эканоміка С. прыйшла ў заняпад. У 1791 Слуцкае княства ліквідавана, горад стаў цэнтрам новаўтворанага Случарэцкага пав. Навагрудскага ваяводства. З студзеня 1793 у складзе Расійскай імперыі, павятовы цэнтр Мінскай губерні.

*Літ.:* 544, 545, 546, 547, 703, 1200.

*Л. У. Калядзінскі.*

**СЛУЦКІ ВЕРХНІ ЗАМАК.** Існаваў у 14—17 ст. на месцы дзядзінца *Слуцка.* Плошча яго адпавядала плошчы дзядзінца (каля 0,6 га). Меў авальную форму. Згадваецца ў пісьмовых крыніцах 15 ст. У 1-й пал. 17 ст. перабудаваны ў замкава-палацавы комплекс. Інвентары Слуцка 17 і 18 ст. упамінаюць аднапавярховы палац з часанага бруса на каменным падмурку. Умацаванні замка (сцены і вежы) былі таксама драўляныя. Замкавая брама мела 4 ярусы бою, 3 гарматы (1791). Раскопкі праводзіў у 1985—86 Л. У. Калядзінскі (300 м²). Культурны пласт каля 1 м, моцна пашкоджаны пазнейшымі перакопамі, дрэнна захоўвае рэчы арганічнага паходжання.

Знойдзены каля 20 каменных ядраў 16 ст., посуд шкляны (шклянiцы, кварты) і керамічны (гаршкі, міскі, паўміскі, талеркі, кубкі, рыльцы) 17 ст., кафля тэракотавая, паліваная, паліхромная, рашэцістая. Знойдзены цэлыя кафлі з адбіткам герба Слуцка (выява крылатага каня з манаграмай уладальніка Слуцка Багуслава Радзівіла).

*Літ.:* 547, 1200. *Л. У. Калядзінскі.*

**СЛУЦКІ КРАЯЗНАЎЧЫ МУЗЕЙ.** Заснаваны ў кастрычніку 1952. Археал. калекцыя складае каля 3 тыс. прадметаў, у экспазіцыі па археалогіі (пл. 62 м²) каля 200 рэчаў (1992). Археал. калекцыя ўключае

матэрыялы эпохі неаліту і бронзавага веку (сякеры з жоўтага крэменю і шліфаванага дробназярністага граніту), жал. веку, у т. л. з гарадзішча *Івань*: посуд мілаградскай, зарубінецкай і штрыхаванай керамікі культур, бронзавыя бляшкі, пласцністыя і драцяныя пярсцёнкі, падвескі (акуляра- і трапецападобныя, у выглядзе галавы качкі), ланцужкі, фібулы, пранізкі, пацеркі з залачонага і шэра-блакітнага глушанага шкла, жал. кіепадобныя шпількі, касцяное дзяржанне кінжала, аздобленае ялінкавым і цыркульным арнаментам. Захоўваюцца рэчы з гарадзішча Слуцка: жал. сякера-кельт, гліняныя праслíцы, фрагменты пасудзін культуры штрыхаванай керамікі. Багата прадстаўлены матэрыял часоў Кіеўскай Русі з раскопак дзядзінца Слуцка: крыжавіна мяча, нажны шаблі, бронзавая булава, жал. кісцень, кап'ё, наканечнікі стрэл і дроцікаў, рэшткі даспехаў, рыштунак конніка і баявога каня (шпоры, стрэмя, псаліі, цуглі, спражкі, кольцы, падкова), прылады працы каваля (шперак, зубілы, цвікарня, барадкі), слесара (напільнікі, малаток), ювеліра (тыглі, каменная формачка для адліўкі зярнёных пацерак), прылады с.-г. працы і промыслаў (сякеры, сярпы, косы, званок-ботала, драўляныя лапаты і даўбёжкі, каменныя жорны, рыбалоўныя кручкі), дэталі транспартных сродкаў, рэчы побыту (посуд гліняны і драўляны, абутак скураны, замкі, ключы, скабянка), сярэбраная грыўня зах.-рус. тыпу з в. Паўлаўка, прывазныя рэчы (амфары, шкляныя бранзалеты, пярсцёнкі, пацеркі, посуд, каменныя крыжыкі-карсуньчыкі, шыферныя праслíцы, сярэбраныя і бурштынавыя падвескі). У ліку унікальных экспанатаў — шахматы з косці (кароль і слон) і дрэва (ладдзя і пешка). Матэрыялы 16—17 ст. з раскопак *Слуцкага Верхняга замка* і пасада Слуцка, паверхневых збораў — гаршкі, рынкі, кубкі, чаркі, кварты, шкляніцы, бутлікі, курыльныя люлькі (сярод іх адмысловыя ў выглядзе жаночых чаравікаў), кафля, у т. л. унікальная з выявай герба Слуцка, каля 20 каменных ядраў.

*Л. У. Калядзінскі.*

**СЛУЦКІ МОГІЛЬНІК,** археал. помнік 16 ст. на тэр. сучаснага Слуцка. На правым беразе р. Случ, за 150 м на Пн ад вуліцы Працоўнай. Выявіў і абследаваў у 1990 у час буд. работ Л. У. Калядзінскі. Нябожчыкаў хавалі ў дубовых дамавінах, выдзеўбаных з суцэльнага тоўстага бервяна, на глыб. 1,7—1,9 м. Дамавіну накрывалі тоўстай дубовай дошкай, якую мацавалі каванымі жал. цвікамі. На могільніку знойдзены груба апрацаваны каменны крыж (83×45 см) з выступам унізе (10×12 см) і выбітай выявай, якая нагадвае герб. *Л. У. Калядзінскі.*

**СЛУЦКІЯ МАНЕТНЫЯ СКАРБЫ.** Знойдзены ў г. Слуцку ў 1887 і 1902. **Скарб 1887.** У двух «драцяных мяшках», схаваных у каменным склепе, знаходзілася каля 2000 *талераў*. Вядомы 33 манеты: Іспанскія Нідэрланды. Альберт і Ізабэла [1599—1621] — *патагоны* (2 экз.); Філіп IV [1621—65] — патагоны (6 экз.); Карл II [1665—1700] — патагоны (7 экз.). Злучаныя Нідэрландскія правінцыі. Аверэйсел — 1695, 1698; Галандыя — 1672, 1676; Давентэр — 1698, 1699; Зеландыя — 1694 (2 экз.); Утрэхт — 1694, 1695. Люціх (епіскапства) — 1653 і 1654 (3 экз.). Савоя. Віктор Амадэй — 1690. Германская імперыя. Фердынанд II — 1624. Швейцарыя. Г. Санкт-Гален — 1620 і 1623 (3 экз.). Ухаваны ў канцы 17 — пачатку 18 ст. Самы буйны скарб талерных манет на тэр. Беларусі. **Скарб 1902.** Складаўся з 20 залатых манет, 4 экземпляры з якіх былі прадстаўлены ў Археал. камісію (Пецярбург): Англія. Генрых IV [1399—1413] — *ноблі* (2 экз.). Перайманні (2 экз.) мухрам патанскага султана Дэлі Мухамада ібн Таглука [1325—51]. Ухаваны ў 1-пал. 15 ст. Аналагаў не мае.

*Літ.:* 1585. *В. Н. Рабцэвіч.*

**СМАЛЬКІ,** курганны могільнік полацка-смаленскіх крывічоў каля в. Смалькі Гарадоцкага р-на. За 800 м на У ад вёскі, уздоўж дарогі на Гарадок. Каля 35 курганоў, з іх 10 падоўжаныя. Выш. круглых насыпаў 1—2 м, дыям. 6—10 м, памеры падоўжаных 12×8×1,5 м; 3 курганы выш. каля 3 м, самы высокі — 4,5 м, яго дыям. да 20 м. Вакол вял. насыпаў захаваліся глыбокія раўкі. Выявіў у 1951 Л. В. Аляксееў. У 1973 Г. В. Штыхаў раскапаў 2 падоўжаныя курганы (8×6 м). Каля іх асновы выяўлены попельнавугольны пласт таўшч. 3—5 см. У адным кургане выяўлена пахаванне па абраду трупаспалення, знойдзены 2 цэлыя перавернутыя дагары дном ляпныя гаршкі і кавалкі трэцяга гаршка з арнаментам «насечка». Могільнік датуецца 8—9 ст.

*Літ.:* 34. *Г. В. Штыхаў.*

**СМАЛЬТА** (ад італьян. smalto праз, ням. Smalte, Schmalte ад schmelzen плавіць), каляровае непразрыстае (глушанае) і празрыстае шкло ў выглядзе маленькіх кубікаў або пласцінак, з якіх выкладаецца мазаіка. На Русь трапіла з Візантыі ў канцы 10 ст. Выкарыстоўвалася для аздаблення алтароў у храмах Кіева, Ноўгарада, Пераяслава. Найб. поўна захаваліся мазаічныя пано ў Кіеўскім Сафійскім саборы (Маці Боская Аранта) і царкве Архангела Міхаіла Кіеўскага Міхайлаўскага манастыра (Дзімітрый Салунскі).

С. мацавалі да сцен вапнавым растворам з дамешкамі дробнага пяску, збожжа, саломкі. У 12 ст. мазаіку на Русі выцесніла фрэскавая размалёўка, вытворчасць С. была спынена, тэхналогія яе вырабаў забыта. Адноўлена ў 18 ст. М. В. Ламаносавым. На Беларусі вядома па раскопках храма-пахавальні Полацкага Спаса-Ефрасіннеўскага манастыра (М. К. Каргер), *Полацкага Верхняга замка* (Г. В. Штыхаў), Віцебскага дзядзінца (Л. У. Калядзінскі). У Полацку сабрана больш за 23 кг глушанага шкла чорнага, цёмна-чырвонага, жоўтага, зялёнага колераў (квадраты 2,5×2,5 см, 4×4 см, трохвугольнікі і палоскі таўшч. 6—8 см). Паводле хімічнага саставу зялёная і жоўтая С. ўяўляюць сабой свінцова-крэменязёмнае шкло, чорная і цёмна-чырвоная —



**Смалянскі замак.** Малюнак Ю. Пешкі канца 18 ст.

натрыева-кальцыева-крэменязёмнае шкло. Полацкая С. паводле хімічнага саставу адпавядае С. з Кіева і Чарнігава; М. А. Безбародаў выказвае меркаванне, што яна магла вырабляцца і ў Полацку. У Віцебску выяўлена т. зв. «залатая кантарэль» — С. з празрыстага бясколернага натрыева-каліева-кальцыева-крэменязёмнага шкла ў выглядзе кубікаў даўж. 9 мм, шыр. 8,3—7, выш. 8,5 мм, вагой 1,1 г. На яго верхнюю грань нанесена залачоная фольга, пакрытая шкляной пласцінкай таўшч. 1 мм. Паводле хімічнага саставу С. з Віцебска адпавядае грэчаскім узорам. Знаходка гэта адзіная на Беларусі, паходзіць, верагодна, з храма св. Міхаіла, пабудаванага на княжацкім двары Віцебскага дзядзінца ў пач. 12 ст.

*Літ.:* 105, 106, 199, 643, 644, 957, 1347, 1370, 1371. *Л. У. Калядзінскі.*

**СМАЛЯ́НСКІ ЗА́МАК,** помнік палацава-паркавай архітэктуры 1-й чвэрці 17 ст. На паўн.-зах. ускраіне в. Смаляны Аршанскага р-на. Вядомы таксама пад назвамі «Белы Ковель» ці «Малы Ковель». Займаў прамавугольную ў плане пляцоўку (100×200 м) на правым беразе р. Дзярноўка. Пабудаваны да 1626 кн. С. А. Сангушкам-Ковельскім з буйной цэглы (29×13×8 см) і палявога каменю. С. з. меў выгляд замкнутага прамавугольніка з вуглавымі 3-яруснымі вежамі і 5-яруснай 5-граннай вежай на паўн.-ўсх. фасаднай сцяне. 3-павярховы корпус палаца па перыметры двара меў сцены таўшч. 1,2—1,7 м. Муроўка С. з. найбольш блізкая да т. зв. галандскай. 5-ярусная замкавая вежа (захавалася часткова) вылучаецца вытанчаным рэльефным дэкорам, які мякка кантраставаў з гладкай паверхняй сцен. Арнамент аконных праёмаў і плоская ордэрная раскрапоўка вежаў сведчаць пра стылістычную сувязь з зах.-еўрап. архітэктурай. У матывах складанага рэнесансавага абрамлення рамкі-картуша прасочваюцца галандскія ўплывы. Захаваліся сляды вітой лесвіцы, што ішла па ўнутраным перыметры вежы, шмат ніш рознага памеру, арачны пераход з гал. корпуса ў вежу, дэталі камінаў. Ёсць звесткі, што на схіле жыцця гаспадар замка кн. Сангушка-Ковельскі загадаў размаляваць пакоі карцінамі на рэлігійныя сюжэты, тэмы смерці і забыцця. Звонку пабелены вапнай замак уяўляў сабой светлае палацавае збудаванне, абкружанае вадой і мяккай зелянінай мурожных паплавоў улетку. З інвентароў замка за 1739 і 1742, калі ён належаў маршалку ВКЛ П. Л. Сангушку, вынікае, што «... замак мураваны на капцы» быў наўкола «вадою аблíты». Перад ім знаходзіўся стаў з мостам і парэнчамі. У мураванай замкавай браме вароты былі зроблены з хваёвых дошак, прыбітых вял. цвікамі і акаваных жал. палосамі. Пры ўваходзе на дзядзінец злева быў вял. склеп. У пакоях палаца стаялі печы з белай кафлі з гербам «Пагоня». Падсобныя гасп. службы размяшчаліся за ставам.

Замак быў разбураны ў рус.-польскую (1654—67) і Паўн. (1700—21) войны. Заняпад С. з. пачаўся ў канцы 18 ст. і завяршыўся ў сярэдзіне 19 ст., калі новы гаспадар Смалян сенатар Сямёнаў прадаў замак на цэглу. Захаваліся 5-ярусная вежа і рэшткі сцен.

*Літ.:* 100, 1201. *М. А. Ткачоў.*

**СМЕ́ДЗІН,** старажытнае паселішча каля былой в. Смедзін (цяпер прыстань) Веткаўскага р-на. За 300 м на Пн ад прыстані, на тэрасе левага берага р. Сож і схілах яе затокі і старарэчча. Адкрыў у 1926 К. М. Палікарповіч, з 1976 штогод даследуе А. Г. Калечыц.

Знойдзены пераважна вырабы з крэменю (нуклеусы, сякеры, скрабкі, разцы, праколкі, свярдзёлкі, скоблі) і адходы крамянёвай вытворчасці, рэшткі ляпнога посуду, упрыгожанага арнаментам (грабеньчатым, ямкавым, лапчастым), нарэзкамі, насечкамі, лінейным штампам і іх спалучэннямі.



В. Е. **Собаль.**

Знаходкі належаць да эпохі неаліту (верхнедняпроўская культура), ранняга і сярэдняга бронзавага веку (сярэднедняпроўская, сосніцкая), ранняга жалезнага веку (зарубінецкая культура), эпохі Кіеўскай Русі, позняга сярэднявечча.

*Літ.:* 863. *А. Г. Калечыц.*

**СНІ́ТКА** Андрэй Канстанцінавіч (1866, Вільна — 13.3.1920), беларускі археолаг, этнограф, краязнавец і музеязнавец. Скончыў Рыжскі політэхнічны ін-т (1888). Адзін з арганізатараў *Мінскага царкоўнага гісторыка-археалагічнага камітэта* (з 1908 сакратар, з 1909 старшыня), *Мінскага царкоўна-археалагічнага музея* (1908). З 1915 настаўнік гімназіі ў Глухаве Чарнігаўскай губ. Вёў раскопкі ў Мінскім (Рагава, Радашковічы, Крычкі, Калізберг), Барысаўскім, Ігуменскім пав., у Пінску, Тураве, Слуцку. Абследаваў манастыры Слуцка, Пінска, Турава, адкуль у музей былі дастаўлены саркафаг. Частку прадметаў для музея С. атрымаў ад Г. Х. *Татура.* Сярод экспанатаў былі старыя іканастасы, крыжы, скульптура, калекцыі археалагічная, этнаграфічная, нумізматычная, археаграфічная, старадрукаваных кніг. Удзельнічаў у выданні *«Мінскай даўніны»* ў адным з выпускаў якога апісаў дакументы Слуцкага Свята-Троіцкага (Трайчанскага) манастыра і даследаванні ў Тураве. Апісаў Нікольскую царкву ў Смалявічах, Мінск у 17 ст., склаў радавод слуцкіх князёў Алелькавічаў і інш. У выданні «Мінскай даўніны» і ў зборы матэрыялаў для музея з С. супрацоўнічалі А. М. Паноў, Л. М. Савелаў, І. А. Сербаў, Д. В. Скрынчанка, У. І. Сразнеўскі і інш. Аўтар гісторыі Слуцка (рукапіс захоўваецца ў архіве Ін-та гісторыі АН Беларусі). *Г. А. Каханоўскі.*

**СО́БАЛЕЎСКІ МАНЕ́ТНЫ СКАРБ.** Знойдзены ў 1936 на тэрыторыі б. саўгаса «Собалева», за 5—6 км ад в. Баева Дубровенскага р-на. Складаўся з 138 цэлых і 168 фрагментаваных куфіцкіх *дырхемаў* Арабскага Халіфата.

Дынастыя Умаядаў (24 экз.): Валід [705—715] — 4 экз., Валід або Сулайман [715—717] — 1, Амар II [717—720] — 1, Хішам [724—743] — 5, Хішам або Валід II [743—744] — 1, Валід II або Ібрахім [744—745] — 1, Мерван II [744—750] — 6, нявызначаныя халіфы — 5; манетныя двары — ал-Басра (2 экз.), Васіт (13), Дарабжэрд (1), Керман (1), Сук ал-Ахваз (1), нявызначаныя цэнтры чаканкі (6). Дынастыя Абасідаў (282 экз.): ас-Сафах [750—754] — 1 экз., ал-Мансур [754—775] — 52, ал-Махдзі [775—785] — 37, ал-Хадзі [785—786] — 1, ар-Рашыд [786—809] — 97, ал-Амін [809—813] — 10, ал-Мамун [810—833] — 29, ал-Мутасім [833—842] — 17, ал-Васік [842—847] — 10, ал-Мутавакіль [847—861] — 23, нявызначаныя халіфы — 4; манетныя двары — ал-Абасія (8 экз.), Абершэхр (1), Арменія (2), Мадынат Балх (3), ал-Басра (6), Мадынат Зярэндж (1), Ісбахан (1), Мадынат Ісбахан (5), Іфрікія (2), ал-Куфа (8), Мах ал-Куфа (3), Мадынат ас-Салам (107), Мерв (4), Мадынат Мерв (1), ал-Мухамедыя (39), ар-Рафіка (1), ар-Рэй (1), Самарканд (12), Мадынат Самарканд (9), Сура ман-Раа (5), Фарыс (2), Мадынат Херат (2), аш-Шаш (4), Маадэн аш-Шаш (2), нявызначаныя цэнтры чаканкі (52), Эміры Ізпегбеды (1 экз.): Саід ібн Далідж; манетны двор Табарыстан. Скарб ухаваны ў 2-й пал. 850-х г., не раней 856—57. Зберагаецца ў Нац. музеі гісторыі і культуры Беларусі (захаваўся часткова).

*Літ.:* 628, 1575. *В. Н. Рабцэвіч.*

**СО́БАЛЬ** Валянцін Енісеевіч (н. 4.3.1949, г. Паставы), беларускі археолаг. Канд. гіст. навук (1988). Скончыў БДУ (1972). З 1974 навук. супрацоўнік Ін-та гісторыі АН БССР, з 1988 археолаг Бел. рэстаўрацыйна-праектнага ін-та Мін-ва культуры Беларусі. Даследуе помнікі архітэктуры археал. метадамі, храналогію культурных пластоў, матэрыяльную культуру гарадоў Бела-

русі 14—18 ст. Прымаў удзел у даследаванні помнікаў архітэктуры Полацка, Мсціслава, Гродна, Мінска, Міра і інш. Адзін з аўтараў альбома «Беларуская кафля» (1989).

*Тв.:* Историко-археологическое изучение Минска XII—XVIII вв. // Древности Белоруссии и Литвы. Мн., 1982; Основные этапы заселения территории феодального Минска // Древности Литвы и Белоруссии. Вильнюс, 1988; Матэрыяльная культура беларусаў у часы Ф. Скарыны (разам з А. К. Краўцэвічам) // Тэзісы дакладаў да канферэнцыі, прысвечанай 500-годдзю Ф. Скарыны. Мн., 1990.

**«СОВЕ́ТСКАЯ АРХЕОЛО́ГИЯ»,** навуковы часопіс па праблемах археалогіі і стараж. гісторыі. Выдаваўся з 1957 у Маскве Ін-там археалогіі АН СССР 4 разы на год; з 1992 наз. «Российская археология». Друкаваліся артыкулы пра адкрыцці сав. археолагаў, археал. даследаванні за мяжой, матэрыялы па сумежных з археалогіяй дысцыплінах, агляды сав. і замежнай літаратуры па археалогіі, рэцэнзіі.

Больш за 100 публікацый (1990) прысвечана розным аспектам археалогіі Беларусі, у т. л. 40 належаць бел. даследчыкам — У. У. Багамольнікаву, М. Ф. Гурыну, А. А. Егарэйчанку, У. Ф. Ісаенку, Т. М. Каробушкінай, А. К. Краўцэвічу, У. П. Ксяндзову, П. Ф. Лысенку, А. Р. Мітрафанаву, Л. Р. Панічавай, Г. І. Пеху, Л. Д. Побалю, Я. Р. Рыеру, І. І. Салівон, А. А. Трусаву, І. М. Чарняўскаму, М. М. Чарняўскаму, Г. В. Штыхаву і інш. Пытанням археалогіі Беларусі прысвечаны артыкулы сав. даследчыкаў Л. В. Аляксеева, І. І. Арцёменкі, Н. М. Гурынай, Ф. Д. Гурэвіч, Ю. У. Кухарэнкі, В. М. Мельнікоўскай, П. А. Рапапорта, Б. А. Рыбакова, Г. Ф. Салаўёвай, В. В. Сядова, П. М. Траццякова, В. Л. Яніна і інш.

*А. А. Егарэйчанка.*

**СО́ЖСКАЯ КУЛЬТУ́РА,** археал. культура позняга *мезаліту* (6—5-е тысячагоддзі да н. э.) у басейне верхняга Дняпра. Вядома каля 14 помнікаў С. к., найб. даследаваныя з іх Васілевічы, *Гарадок* (Жлобінскі р-н), *Міхайлаўка* (Светлагорскі р-н) на Бярэзіне, *Глыбаўка, Новыя Грамыкі,* Стаўбун (Веткаўскі р-н) на Бесядзі, *Берагавая Слабада* (Рэчыцкі р-н), *Новы Быхаў* (Быхаўскі р-н) на Дняпры, *Прысно* (Веткаўскі р-н), *Кліны* (Слаўгарадскі р-н), *Жураведь* (Чэрыкаўскі р-н) на Сажы. Назву атрымала па месцазнаходжанні найб. даследаванай стаянкі *Горкі* (Чэрыкаўскі р-н) на Сажы (раскапана 1668 м² культурнага пласта). С. к. сфарміравалася ў спрыяльных умовах стабілізацыі прыроднай абстаноўкі канца барэальнага — пач. атлантычнага перыядаў і ў значнай ступені атрымала ў спадчыну асн. рысы крамянёвага інвентару *грэнскай культуры* (тэхніка расшчаплення крэменю, асобныя тыпы скрабкоў, разцоў, вастрыёў) і *свідэрскай культуры* (формы наканечнікаў стрэл). Адметная рыса помнікаў С. к.— шырокае выкарыстанне ў якасці загатовак для прылад працы адшчэпаў, часта крэйдавай скарынкай, што надае своеасаблівасць інвентару. Адной з найб. выразных форм прылад з'яўляюцца наканечнікі стрэл з дакладна агранёных нажападобных пласцін, аформленых у свідэрскай традыцыі. У іх слаба або добра вылучаны вострыя тронкі.

Сярод іншых крамянёвых прылад — разцы (рэтушныя або бакавыя, сярэдзінна-вуглавыя, на вуглу зламанай загатоўкі), скрабкі (скошаныя, двайныя, з «шыпам», у меншай колькасці падакруглыя і кругляватыя) і скрэблападобныя прылады. Трапляюцца камбінаваныя прылады: скрабкі-разцы, скрабкі-праколкі, скрабкі з выемкай па краі і інш. Вастрыі прадстаўлены формамі са скошаным дробнай рэтушшу канцом і рэтушаванымі краямі, якія сыходзяцца. Свярдзёлкі і праколкі ў большасці сіметрычныя без вылучанай рабочай часткі, трапляюцца трапецыі, вырабы з выемкамі (скоблі), кароткія сячэнні пласцін-укладышаў са слядамі спрацаванасці і ў шэрагу выпадкаў з разцовым сколам на вугле. Усюды пашыраны прылады, якімі seклі: сякеркі з перахватам, авальныя, траншэпадобныя і востраабуховыя. Шмат прылад выпадковага выкарыстання ў выглядзе пласцін і адшчэпаў з частковай рэтушшу краю. Паселішчы С. к. размешчаны па берагах рэк на першых і другіх надпоймавых тэрасах, часта паблізу выхаду крамянёвай сыравіны. Асноўнымі заняткамі насельніцтва былі паляванне, рыбалоўства, збіральніцтва.

С. к. мае агульныя рысы ў інвентары з помнікамі позняга этапу бутоўскай культуры і *нёманскай мезалітычнай культуры,* што абумоўлена агульнай свідэрскай асновай іх фарміравання. На базе С. к. пазней узнікла *верхнеднепроўская культура* эпохі неаліту. С. к. вылучана ў 1960-я г. У. Ф. Ісаенкам па матэрыялах раскопак К. М. Палікарповіча як макралітычная культура Верхняга Падняпроўя. У наступныя гады помнікі гэтай культуры вывучалі А. Г. Калечыц, В. Ф. Капыцін і інш. На думку У. П. Ксяндзова, большасць пералічаных помнікаў С. к. ўваходзіць у склад днепрадзяснінскай культуры, якая існавала ў мезаліце ў басейнах рэк Бярэзіны, Дняпра, Сажа, Дзясны. Генезіс культуры ён звязвае з узаемаўплывам свідэрскай культуры і культуры Лінгбі, якія пачаўся ў фінальным палеаліце. Для інвентару помнікаў гэтай культуры характэрны постсвідэрскія сіметрычныя наканечнікі стрэл, прызматычныя, канічныя, аморфныя нуклеусы, канцавыя, кругляватыя скрабкі, разцы розных тыпаў, скоблі, праколкі, авальныя або з перахватам сякеры. Тэрытарыяльна вылучаюцца 2 групы помнікаў: заходняя (басейн Бярэзіны) і ўсходняя (басейны Дняпра і Сажа).

*Літ.:* 479, 572, 619. *В. Ф. Капыцін.*

**СО́ЛІД** (лац. solidus моцны), 1) залатая манета Зах. (з 314) і Усх. (з 324) Рымскай імперыі (*лігатурная маса* 4,55 г), якая прыйшла на змену *аўрэусу.* 2) Залатая манета Франкскага каралеўства (маса ≈ 3,88 г) у 2-й пал. 5 — 1-й пал. 9 ст. 3) Залатая манета Візантыйскай імперыі 8—13 ст. (*метрычная проба* 916—958 — да 1-й трэці 11 ст., 750 — да 1-й пал. 11 ст., 350 — з канца 11 ст.; маса 4—4,40 г). На тэр. Беларусі абарачалася пад назвай *намісма.* 4) Сярэбраная, білонная, медная (з 17 ст.) манета дзяржаў Еўропы 14—19 ст. 5) Білонная манета г. Гданьска (1457—66, 1524—26, 1530—32, 1537—40, 1546—47, 1549—52, 1556—77), Toруня (1457—66, 1528—34, 1538—39) і Эльблёнга (1457—66, 1530—34, 1538—39). У гданьскіх С. 1457—66 *лотавая проба* III $^2/_3$, маса 1,38 г, торунскіх — проба III $^3/_4$, маса 1,44 г, эльблёнгскіх — проба III $^2/_3$, маса 1,40 г; 1528—77 — проба ≈ III, маса ≈ 1,24 г. 6) Білонная (1578—1623, 1652—54, 1657—58, 1665—66, 1668, 1670—73, 1688, 1715) і медная (1650, 1659—66, 1749—55, 1757, 1760—63, 1765—68, 1776, 1780, 1792—93) манеты Рэчы Паспалітай, парытэтныя $^1/_3$ *гроша* (у 1650 — $^1/_4$ гроша).

У білонных С. з 1578 проба VI, маса 0,59 г, з 1580 — проба II $^1/_2$, маса 1,12 г, з 1623 — проба II, маса 0,66 г, 1652 — проба II, маса 0,53 г, з 1670 — проба I, маса 0,71 г. У медных С. і ў 1650 маса 2,62 г, з 1659 — 1,41 г, з 1749 — 1,23 г, з 1766—1,30 г. **Агульнадзяржаўная чаканка.** Польскія эмісіі выпускалі: Быдгашчанскі манетны двор у 1594—97, 1599—1601, 1613—14, 1620—27, 1650; *Варшаўскі манетны двор* — 1766—68, 1776, 1780, 1792; Усхоўскі манетны двор — 1579—86, 1588—1601, 1616—19, 1650; Грунтальскі манетны двор — 1750—51; Губенскі манетны двор — 1751—55; Дрэздэнскі манетны двор — 1749; Кракаўскі манетны двор — 1601, 1613—27, 1650, 1659—63, 1665—66, 1766—68; Мальбаркскі манетны двор — 1584—85, 1592, 1594, 1596, 1600—01; Пазнанскі манетны двор — 1584—86, 1588—97, 1599, 1652—53; Уяздаўскі манетны двор — 1659—66. **Гарадская чаканка.** Выпускалі Гданьскі манетны двор — 1577—84, 1657—58, 1670, 1673, 1688, 1715, 1753—54, 1757, 1761, 1763, 1765—66, 1793; Тарунскі манетны двор — 1665—66, 1668, 1671, 1760—63, 1765; Эльблёнгскі манетны двор — 1627, 1666, 1671—73, 1760—63. Літоўскія эмісіі (ВКЛ) выпускалі: *Брэсцкі манетны двор* у 1665—66; Віленскі манетны двор — 1580—85, 1589—92, 1612—27, 1652—54; *Ковенскі манетны двор* — 1665—66; Мальбаркскі манетны двор — 1666; Олькушскі манетны двор — 1663, 1665—66; Уяздаўскі манетны двор — 1660—61, 1665—66. Адзнакі манетных двароў гл. ў арт. *Манетныя двары Рэчы Паспалітай, Манетныя двары Саксоніі.*

*Літ.:* 1538, 1585, 1652, 1671, 1735.

*І. Ф. Масько.*

**СО́ПКІ,** пахавальныя збудаванні наўгародскіх (ільменскіх) *славен* 7—9 ст. Уяўляюць сабой крутабокія насыпы выш. 2—10 м, з пляскай




**Солід.** Рымская імперыя: 1. Канстанцін II [337—340]. Візантыя: 2. Канстас II, 647—648; 3. Феафіл [829—842]; Франкская дзяржава: 4. Сярэдзіна 6 ст. Тэўтонскі ордэн: 5. Міхаіл Кухмайстар фон Штэрнберг [1414—22]; 6. Марцін Трухзес фон Ветцхаўзен [1477—89]. Лівонскі ордэн: 7. Іаган Фрайтаг фон Ларынгхофе [1483—94], чаканка г. Вендэна (цяпер г. Цэсіс); 8. Вальтэр Плетэнберг [1494—1535], рыжская чаканка; 9. Герман фон Брунегей [1535—49], чаканка г. Рэвеля (цяпер г. Талін). Польшча: 10. Жыгімонт I Стары, 1547, чаканка г. Гданьска. Рэч Паспалітая; 11—14. Стэфан Баторый, літоўская чаканка 1583, польская чаканка 1582, 1584, рыжская чаканка 1585; 15—17. Зыгмунт III Ваза, літоўская чаканка 1624, польская чаканка 1592, 1623; 18—19. Ян II Казімір Ваза, польская чаканка 1650, літоўская чаканка 1652; 20. Міхаіл Карыбут, 1671, чаканка г. Торуня; 21. Аўгуст III, 1749; 22. Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, 1766: Прусія: 23. Альберт II, 1552; Георг Вільгельм, 1627; 25. Фрыдрых Вільгельм, 1654. Шведская Прыбалтыка: 26. Густаў II Адольф, 1630, чаканка г. Эльблёнга; 27. Карл X Густаў, 1654, чаканка г. Рыгі.

вяршыняй і круглай асновай, якая выкладзена камянямі. Будаваліся паступова ў некалькі прыёмаў, пры патрэбе новых пахаванняў, таму маюць шмат'яруснае збудаванне і з'яўляюцца калектыўнымі пахавальнямі вял. патрыярхальных сямей з дзесяткамі пахаванняў, у большасці бязурнавых і без інвентару. Назва ад слова сыпаць. Зрэдку сустракаюцца паясныя спражкі, шкляныя пацеркі, бронзавыя бразготкі і інш. Тэрмін «сопка» сустракаецца ў Гарадоцкім (вёскі Мяжа, Аляксеева, Хацейка, Хабаты і інш.) і Віцебскім (в. Гарадняны) р-нах. Каля в. Хабаты выяўлены пахаванні па абрадах трупаспалення (з ляпной керамікай, блізкай да посуду з доўгіх курганоў) і трупапалажэння.

*Літ.:* 176, 1057, 1087. *Г. В. Штыхаў.*

**СО́СЕНКА,** археал. помнік каля в. Сосенка Вілейскага р-на.

Паселішча-1. За 2 км на ПнУ ад вёскі, на беразе Вілейскага вадасховішча. Памер 90×30 м. Выявіў у 1972, даследаваў у 1972, 1982, 1983 М. М. Чарняўскі. Раскапана 334 м². Культурны пласт да 0,6 м. Выяўлены агнішчы, гасп. ямы.

Знойдзены крамянёвыя мікралітычныя ўкладышы, лістападобныя і трохвугольныя наканечнікі стрэл, скрабкі, разцы, праколкі, нажы, сякеры, абломкі гліняных ляпных гаршкоў, аздобленых грабеньчатым і накольчатым арнаментам.

Стаянка адносіцца да эпохі мезаліту і ранняга неаліту, датуецца 7—5-м тысячагоддзямі да н. э. У верхнім пласце трапляюцца матэрыялы сярэдневяковага часу.

Паселішча-2. За 1,5 км на ПдЗ ад вёскі, на востраве Вілейскага вадасховішча. Выявіў у 1972 і даследаваў у 1973 Чарняўскі. Раскапана 80 м². Культурны пласт да 0,4 м.

Знойдзены фрагменты грабеньчатай керамікі з дамешкамі раслінных рэшткаў у гліне, крамянёвыя скрабкі, разцы, рэтушаваныя адшчэпы. Неалітычныя знаходкі сабраны і з насыпаў размешчанага тут курганнага могільніка.

Паселішча адносіцца да эпохі неаліту. Датуецца 4-м — канцом 3-га тысячагоддзя да н. э.

Паселішча-3. За 2,5 км на ПнУ ад вёскі, на беразе Вілейскага вадасховішча. Памер 40×30 м. Адкрыў у 1972, даследаваў у 1973 Чарняўскі. Раскапана 20 м². Знойдзена ляпная грабеньчатая кераміка і крамянёвыя вырабы. Адносіцца да эпохі неаліту. Датуецца 4-м — канцом 3-га тысячагоддзя да н. э.

Курганны могільнік. Размяшчаўся на месцы паселішча-2. Налічваў 23 насыпы: 17 круглых дыям. 6,5—11,5 м, выш. 0,6—1,9 м і 6 прадаўгаватых памерам 6—9× ×8,5—11,5 м, выш. 0,9—1,4 м. Даследаваў у 1972 Я. Г. Звяруга. Пахавальны абрад — трупаспаленне за межамі могільніка (за выключэннем аднаго кургана), 1—3 спаленні ў кожным кургане. У 5 выпадках рэшткі крэмацыі змешчаны адразу пад дзірванам, у адным — у насыпе, у астатніх — на ўзроўні стараж. гарызонту глебы. У 6 пахаваннях на гарызонце рэшткі спаленняў прыкрыты перавернутымі урнамі.

Пахавальны інвентар: бронзавыя трапецападобныя падвескі, спіралькі, пласціністы бранзалет з загнутым у трубку канцом, жал. спражкі з увагнутымі бакамі, петлепадобныя трымальнікі для падвесак. У адным кургане адразу пад дзірванам ляжаў касцяк дзіцяці, сярод касцей — пласціністы пярсцёнак з разамкнёнымі канцамі і 3 трапецападобныя падвескі. У насыпах знойдзены жал. нажы, рыбалоўныя кручкі, матыка, крэсіва, шпількі, бронзавыя пярсцёнкі, фібулы, абломкі шыйных грыўняў, шкляныя пацеркі, гліняныя праслiцы, грузілы для сетак, тачыльныя камяні.



Спражкі (1, 4, 6), прывескі (2, 3, 5, 11), пярсцёнак (7), пацерка (8), фібула (9), кольца (10), бранзалет (12), крэсіва (13), грыўні (14,15), спіралька (16), матыка (17), нажы (18, 19), шпілька (20), рыбалоўныя кручкі (21, 22) з курганнага могільніка **Сосенка.**

Датуецца 8 — пач. 10 ст.

*Літ.:* 424, 432а.

*М. М. Чарняўскі, Я. Г. Звяруга.*

**СО́СНІЦКАЯ КУЛЬТУРА,** археал. культура плямён, якія ў сярэдзіне бронзавага веку (1,5—1 тыс. г. да н. э.) жылі ў басейнах Дзясны, Верхняга Дняпра і па Ніжняй Прыпяці. Вылучылі як асобную групу *тшцінецкай культуры* С. С. Беразанская (1957), як культуру І. І. Арцёменка (1961). Назву атрымала ад паселішча каля г. п. Сосніца Чарнігаўскай вобл. Насельніцтва займалася земляробствам, жывёлагадоўляй, рыбалоўствам, паляваннем, апрацоўкай медзі і бронзы; жыло на паселішчах, размешчаных на пясчаных поймавых узвышшах, краях тэрас і мысах, якія ўразаліся ў пойму. Жытлы — наземныя і паўзямлянкі (пл. каля 24—98 м²) слупавой канструкцыі, з 1—2 памяшканнямі (жылым і гаспадарчым), двухсхільным дахам, з печамі, адкрытымі агнішчамі і гасп. ямамі. Пахавальныя абрады — трупаспаленне на грунтавых могільніках, радзей трупапалажэнне на баку ў скурчаным становішчы ў курганных або на спіне ў выцягнутым становішчы ў бескурганных могільніках. Нябожчыкаў, рэшткі спаленняў і урны хавалі ў магільных ямах, перакрытых драўляным насцілам. Насельніцтва С. к. выраблялa слоікападобныя пасудзіны, міскі, чашы, пласкадонныя цюльпана- і S-падобныя гаршкі з патоўшчаным і скошаным венчыкам, упрыгожаныя найчасцей толькі ў верхняй частцы пракрэсленымі лініямі, насечкамі, ямкамі, адбіткамі шнура, зубчастага штампа, перавітай вяровачкі, ружанцовым арнаментам, наляпнымі валікамі. Часам арнаменты ўтваралі гарызантальны рад віслых трохвугольнікаў, палосы, зігзагі і інш. Сярод упрыгожанняў — шпількі з кольцападобнай галоўкай, бранзалеты са спіралепадобнымі шчыткамі, двухспіральныя і акулярападобныя фібулы, кольцы, бляшкі. Прылады працы прадстаўлены крамянёвымі сякерамі, нажамі, трохвугольнымі з тронкамі наканечнікамі стрэл, скрабкамі, скоблямі, сярпамі, каменнымі матыкамі, бронзавымі кельтамі, долатамі, наканечнікамі коп'яў і інш. Па кераміцы С. к. блізкая да тшцінецкай культуры. На Беларусі найб. даследаваны помнікі *Гадзілавічы, Мохаў, Прысно, Раманавічы, Ходасавічы.*

*Літ.:* 81, 847.

*У. Ф. Ісаенка, А. Г. Калечыц.*

**СО́ШНА,** паселішчы эпохі *мезаліту*, сярэдняга *бронзавага веку* і пазнейшай пары каля в. Сошна Пінскага р-на.

Паселішча-1. За 300 м на ПнЗ ад вёскі, на надпоплаўнай тэрасе р. Вісліца. Пл. каля 5 га. Адкрылі ў 1986 В. С. Вяргей і А. А. Егарэйчанка, даследавала ў 1987 Вяргей (170 м²). Культурны пласт 0,4—0,7 м.

Знойдзены крамянёвыя вырабы (наканечнікі стрэл, скрабкі, разцы, адшчэпы, пласціны, нуклеусы, рэтушоры і інш.) 9—7 ст. да н. э., фрагменты ляпнога таўстасценнага посуду цюльпанападобнай формы з слабавыгнутым венчыкам, аздобленага кругавымі лініямі (належалі ўсходне-тшцінецкім плямёнам), кераміка *мілаградскай культуры*, рэшткі посуду 16—18 ст.

Паселішча-2. За 400 м на Пн ад паселішча-1, на невысокай надпоплаўнай тэрасе. Пл. больш за 1 га. Культурны пласт таўшч. 0,1—0,5 м. Даследавала ў 1987 Вяргей. Выяўлены сляды наземнага жытла прамавугольнай формы памерам 2,6×3 м

з падкавападобным агнішчам у паўд. куце, пабудова слупавой канструкцыі з ямкай у паўд.-зах. куце, слупавыя і гасп. ямы. Знойдзены крамянёвыя вырабы, фрагменты гладкага ляпнога посуду, гліняныя праслiцы, шкляная паліхромная пацерка і інш. Належала плямёнам мілаградскай культуры.

*В. С. Вяргей.*

**СПАРЫ́ШЫ**, два невял. гаршкі, злучаныя дугападобнай ручкай. Прызначаліся для транспарціроўкі і захоўвання стравы ва ўмовах палявых работ. Вядомыя па раскопках *Віцебскага Верхняга замка* і Мінскага замчышча і інш. Упамінаюцца ў шэрагу бел. інвентароў 17—18 ст. як «гаршкі дубальтовыя», вядомы пад назвамі «блізняты», «парнічкі». У побыце беларусаў выкарыстоўваліся да сярэдзіны 20 ст.

*Літ.:* 1105, 1399. *Л. У. Калядзінскі.*

**СПЕКТРА́ЛЬНЫ АНА́ЛІЗ**, фізічны метад якаснага і колькаснага аналізу саставу і будовы рэчываў, заснаваны на вывучэнні іх спектраў. Падзяляецца на эмісійны (выпраменьванне), абсарбцыйны (паглынанне), люмінесцэнтны, камбінацыйнага рассейвання святла і інш. Характарызуецца высокай адчувальнасцю. Выкарыстоўваецца ў розных галінах навукі і тэхнікі, у археалогіі — пры вывучэнні хімічнага саставу каляровых (асабліва бронзы) і чорных металаў. Разам з тыпалагічнымі асаблівасцямі і структурнымі паказчыкамі вынікі С. а. дазваляюць вырашаць пытанні абмену і гандлю, выяўляць іншыя шляхі распаўсюджвання вырабаў з вытворчых цэнтраў.

*Літ.:* 1020, 1297. *М. Ф. Гурын.*

**СПІЦЫН** Аляксандр Андрэевіч [14(26).8.1858, Яранск Вяцкай губ.— 17.9.1931], археолаг. Чл.-кар. АН СССР (1929). Скончыў Пецярбургскі ун-т (1882). З 1892 чл. *Археалагічнай камісіі*, з 1919 чл. Расійскай (з 1926 Дзяржаўная) акадэміі гісторыі матэрыяльнай культуры. Вывучаў і сістэматызаваў усх.-слав. старажытнасці, адзін з першых пачаў спалучаць археалогію з гісторыяй. Абагульніў і апублікаваў матэрыялы археал. раскопак, якія праводзілі ў басейне Нёмана В. А. Шукевіч, Ф. В. Пакроўскі, Э. А. Вальтэр. У 1893 на 9-м археал. з'ездзе ў Вільні выступіў з дакладам аб каменных магілах і курганах на Беларусі, у 1926 на 1-м з'ездзе даследчыкаў бел. археалогіі і археаграфіі — аб сучасным становішчы бел. археалогіі. Аўтар прац: «Магчымыя літоўскія курганы VIII—IX ст.» (1896), «Магчымыя старажытнасці Чорнай Русі» і «Рассяленне старажытнарускіх плямён па археалагічных даных» (1899), «Літоўскія старажытнасці» (1925).

*Літ.:* 272, 874. *В. У. Скалабан.*

**СПО́РАВА,** археал. помнікі каля в. Спорава Бярозаўскага р-на.

С т а я н к а-1 эпохі неаліту (3-е тысячагоддзе да н. э.). На З ад вёскі, на пясчаных пагорках паўн. берага воз. Спораўскае. Даўж. каля 100 м. Выявіў і даследаваў у 1964 У. Ф. Ісаенка. Сярод знаходак — крамянёвыя прылады працы.

С т а я н к а-2 *нёманскай культуры*. За 2,5—3 км на ПдЗ ад вёскі, на паўн.-зах. беразе воз. Спораўскае. Выявіў і даследаваў у 1963 Ісаенка. Культурны пласт каля 0,5 м. Знойдзена больш за 60 крамянёвых прылад працы, абломкі ляпных гаршкоў, косці жывёл, рэшткі вогнішчаў, якія абкладваліся камянямі.

*Літ.:* 638. *У. Ф. Ісаенка.*



А. А. **Спіцын.**




**Спражкі** да берэтаў (аграфы 17 ст., паводле Л. А. Малчанавай; 1, 2), да верхняга адзення (з партрэта канца 16 — пач. 17 ст.; 3), да пояса (з партрэта 2-й чвэрці 17 ст.; 4), жалезныя спражкі да паясоў (17—18 ст., з раскопак Крэўскага замка; 5, 6).

**СПО́РАВА-ПЫЛКО́ВЫ АНА́ЛІЗ,** метад вызначэння прыналежнасці раслін да пэўнага роду, віду і сямейства паводле марфалагічных асаблівасцей спор і пылку. Дазваляе рэканструяваць раслінны свет стараж. эпох. Гл. ў арт. *Палеабатаніка.*

**СПРАВАЗДА́ЧА ПРА АРХЕАЛАГІ́ЧНАЕ ДАСЛЕ́ДАВАННЕ,** навуковая фіксацыя археал. матэрыялаў, атрыманых у выніку раскопак або разведак. Афармляецца ў адпаведнасці з інструкцыяй пра палявыя даследаванні і аддаецца ў навук. установу, якая выдала Адкрыты ліст, не пазней як за 1—2 месяцы да пачатку новага палявога сезону.

Уключае інфармацыю: пра месца і час правядзення работ, мэту і задачы даследавання, крыніцы фінансавання, склад атрада (групы), што праводзіў работы і канкрэтны ўклад кожнага; падрабязнае апісанне помніка да пачатку работы (у т. л. даследаванне папярэднікамі і яго вынікі), працэс раскопак культурнага пласта (таўшчыня, колер, склад і інш. з тлумачэннем іх паходжання), рэштках забудовы (жытлы, паўзямлянкі, вулічнае машчэнне, агнішчы, печы, вастраколы, гасп. ямы і інш.). Падрабязна апісваюцца адзінкавыя знаходкі (з пазначэннем месца і глыбіні іх залягання ў раскопе) і масавыя знаходкі (кераміка, косці жывёл і інш.). Апісанне ілюструецца фотаздымкамі і графічнымі замалёўкамі планаў участкаў раскопу, буд. комплексаў, профіляў сцен і інш. Да справаздачы прыкладаюцца: вопіс усіх знаходак, даведка пра месца захавання калекцыі, маршрутная карта з указаннем абследаваных або выяўленых помнікаў, сітуацыйныя планы помнікаў і іх фотаздымкі, адкрыты ліст, завераны на месцы правядзення работ органамі мясц. улады. Пасля абмеркавання і зацвярджэння справаздача паступае ў архіў, а копія (пры неабходнасці) у мясц. музей, дзе праводзіліся раскопкі.

*Літ.:* 4. *Л. У. Калядзінскі.*

**СПРА́ЖКА,** зашпілька, якая замацоўвае пояс, верхняе адзенне, выкарыстоўваецца для прымацавання чаго-небудзь, з'яўляецца таксама і ўпрыгожаннем. Складаецца са стрыжня з вострым канцом і рамкі розных форм (чатырохвугольнай, авальнай, круглай), часам аздобленай чаканкай, ліццём, камянямі.

Як прыналежнасць пояснога набору С. паявілася ў Еўропе ў эпоху бронзавага веку. На тэр. Беларусі сустракаюцца з 1-й пал. 1-га тысячагоддзя н. э. Рабілі з жалеза ці бронзы. Раннія С. па канструкцыйных асаблівасцях падзяляліся на 2 тыпы: адначасткавая рамка прамавугольнай ці авальнай формы, выробленая з суцэльнага кавалка дроту; двухчасткавая рамка, аснова якой была дуга- ці П-падобная, а канцы злучаліся воссю з працягнутым на яе язычком. Карпусы некаторых С. арнаментаваныя насечкамі. С. выяўлены на гарадзішчах культур штрыхаванай керамікі (*Лабеншчына, Малышкі*), у могільніку Брэст — Трышын вельбарскай культуры і інш. З развіццём паясовага набору ў старaж.-рус. перыяд з'явіліся С. новых форм (круглай, ліра- ці В-падобнай і інш.). У 13—17 ст. на Беларусі

выкарыстоўвалі для аздаблення літургічнага адзення, галаўных убораў, абутку. У 16—18 ст. у шырокім ужытку сярод гараджан і шляхты былі скураныя паясы, аздобленыя набіўнымі бляшкамі з розных металаў, а на канцах была багата ўпрыгожаная С. Заможныя сяляне насілі пакупныя скураныя паясы, якія зашпільваліся жал. альбо меднай С. З'яўляюцца масавай знаходкай у стараж.-рус. гарадах (Ваўкавыск, Мінск, Полацк і інш.). Часта сустракаюцца ў мужчынскіх пахаваннях стараж.-рус. курганоў (*Каласы, Кублішчына, Мадора, Наўры, Навасёлкі* і інш.).

*Літ.:* 385, 425, 636, 785, 795а, 797, 1347, 1483.

*А. А. Егарэйчанка, Г. М. Сагановіч, А. А. Трусаў.*

**СРЭ́БРАНІК,** першая манета Русі (адначасова са *златнікам*), якую чаканілі з серабра, білону, медзі з нязначным дамешкам серабра. Вядома каля 340 С.: з 185 апрабаваных манет 130 медныя, *метрычная проба* астатніх 300—375 (21 экз.), 480—500 (12), 600—720 (6), 800—860 (5), 875 (2), 900 (1), 960 (8); *лігатурная маса* ў сярэднім 3±0,5—0,8 г. Выраблялі- ся з куфіцкіх *дырхемаў.*

С. Уладзіміра Святаславіча [980—1015] 4 тыпаў (Кіеў). Першы тып: на *аверсе* — выява ў анфас князя, які сядзіць, на галаве шапка з падвескамі, увянчаная крыжам; у правай руцэ крыж з доўгім дрэўкам, левая — на грудзях; над левым плячом княжацкі знак — трызубец; кругавая (кірыліцай) *легенда* — **владимир на столе** (прастоле) або **владимир ат се его сребро.** На *рэверсе* — пагрудная ў анфас выява Ісуса Хрыста ў крыжападобным вянцы-німбе, які ў левай руцэ трымае Евангелле, а правай рукой бласлаўляе, кругавая (кірыліцай) легенда — **исус христос** або **и[су]с х[рист]с.** Выпуск С., магчыма, прысвечаны хрышчэнню Русі і шлюбу (989) Уладзіміра і Ганны (сястры візантыйскіх імператараў Васіля II і Канстанціна VIII). Другі тып: на аверсе — выява ў анфас князя на прастоле, на галаве шапка з падвескамі, якія спускаюцца па баках твару, вакол галавы кропкавы німб; у правай руцэ — крыж на доўгім дрэўку, левая — на грудзях; кругавая (кірыліцай) легенда — **владимир на столе.** На рэверсе — княжацкі трызубец; кругавая (кірыліцай) легенда — **а се его сребро.** Трэці тып: на аверсе — выява ў анфас князя на прастоле з высокай спінкай, на галаве шапка з падвескамі і крыжам; на грудзях круглая фібула; у абедзвюх руках крыж на доўгім дрэўку, прыгорнуты да правага пляча. На рэверсе — трызубец. Легенды аверса і рэверса як на С. 2-га тыпу. Вядомы 1 экз., перачаканены на С. 2-га тыпу. Чацвёрты тып: на аверсе — выява ў анфас князя на прастоле без спінкі; на галаве — шапка з падвескамі і крыжам; вакол галавы кропкавы німб; у правай руцэ крыж з доўгім дрэўкам на ступеньчатым падножжы, левая — на грудзях; легенда як у С. 2-га і 3-га тыпаў або **володимере серебро.** На рэверсе — трызубец; легенда як на С. 2-га і 3-га тыпаў (на адной манеце апошняе слова — **серебро)** або **святого василя** (Васіль — хрысціянскі патрон Уладзіміра). Выпускі С. 2—4-га тыпаў адбыліся ў апошнія гады княжання Уладзіміра, магчыма, прысвечаны жаніцьбе князя пасля смерці Ганны (1011) з дачкой графа Куно, унучкай германскага імператара Атона Вялікага. С. Святаполка Яраполчыча [988—1016, 1018], сына Яраполка Святаславіча, 3 тыпаў (Кіеў). Першы тып: на аверсе — выява як на С. Уладзіміра 4-га тыпу; кругавая (кірыліцай) легенда — **святополк на столе.** На рэверсе — радавы княжацкі знак (двузубец, левы зубец увянчаны крыжам), над знакам — роўнаканцовы крыжык з кружкамі на канцах; кругавая (кірыліцай) легенда — **а се его серебро.** Вядомы адзін экз., перачаканены (магчыма, каля 1016) на С. Уладзіміра 2-га тыпу і 1 экз. з выявай трызубца Уладзіміра на аверсе без крыжыка над зубцамі. Другі тып: на аверсе — паясная ў анфас выява барадатага апостала Пятра (хрысціянскага патрона Святаполка) з кропкавым німбам вакол галавы; у правай руцэ — крыж з доўгім дрэўкам, які ляжыць на правым плячы, левая рука — на грудзях; кругавая (кірыліцай) легенда — **петрос** (двойчы). На рэверсе — двузубец як на С. 1-га тыпу, паміж зубцамі — невял. якар (?)



**Срэбранік.** Кіеўская Русь: 1—4. Уладзімір Святаславіч, каля 989 (тып 1), не раней 1011 (тып 2), не раней 1011 (тып 3), не раней 1011 (тып 4); 5—7. Святаполк Яраполчыч, каля 1016 (тып 1). Наўгародскае княства: 8. Яраслаў Уладзіміравіч, 1014—15 (тып 1).

з адным кручком; кругавая (кірыліцай) легенда — **огеос** (скажонае грэч. агиос — святы) **петрос.** Чаканены, магчыма, у 1016. Трэці тып: на аверсе — выява ў анфас князя на троне з кропкавым німбам вакол галавы; у правай руцэ крыж на доўгім дрэўку, левая рука — на грудзях; кругавая (кірыліцай) легенда — **петор** і неразборлівае слова. На рэверсе — двухзубец як на С. 1-га і 2-га тыпаў, паміж зубцамі — невял. значок у выглядзе паўмесяца рожкамі ўверх; кругавая (кірыліцай) легенда неразборлівая. Чаканены, магчыма, у 1018. С. Яраслава Мудрага [1019—1054], сына Уладзіміра і полацкай князёўны Рагнеды Рагвалодаўны, 2-х тыпаў (Ноўгарад). Першы тып: на аверсе — пагрудная ў анфас выява св. Георгія (хрысціянскага патрона Яраслава) з кропкавым німбам вакол галавы, на грудзях — круглая фібула, у правай руцэ — кап'ё, у левай — шчыт; па баках змешчаная вертыкальна грэч. легенда — **о**[гиос] **георгио**[с]. На рэверсе — трызубец з кружком на канцы сярэдняга зубца; кругавая (кірыліцай) легенда — **ярославле сърєбро** (або **сребро**); на краі *поля* манеты — крыжападобна размешчаныя літары **аминь** (амінь). Штэмпелі выкананы на высокім мастацкім узроўні. Чаканена, магчыма, у 1014 — пач. 1015. Другі тып: на аверсе — як на С. 1-га тыпу выява, але грубай работы; замест кучараў Георгія — кропкавы венчык, над німбам, управа ад вастрыя кап'я — па чарзе 2 раўнаканцавыя крыжыкі і 2 прамыя рыскі; легенда як на С. 1-га тыпу. На рэверсе — трызубец, як на С. 1-га тыпу, па баках сярэдняга зубца і пад асновай — раўнаканцавыя крыжыкі; кругавая (кірыліцай) легенда — раўнаканцавы крыжык і **ярославле сребро** (у 1-м слове р мае лацінскае напісанне). С. гэтага тыпу меншыя за папярэднія па дыяметру і масе (1,018—1,57 г). Чаканены, магчыма, у 1018. Месца вытворчасці, відаць, Ноўгарад або Скандынавія, таму што ўсе вядомыя экз. знойдзены ў Прыбалтыцы. Штэмпелі для ўсіх С. Уладзіміра і Святаполка выраблялiся з нетрывалага матэрыялу, магчыма, з бронзы. Тэхніка чаканкі была своеасаблівай: манеты выбівалі на кружках, адлітых у складных двухстворкавых формах. На тэр. Беларусі двойчы знойдзены С.: у 1873 у б. маёнтку Вотня Рагачоўскага р-на, 4 С. Уладзіміра 1-га тыпу ўваходзілі ў склад караляў, з іх 1 С. (з легендамі — **владимир на столе** і **исус христос**) зберагаўся ў археолага М. М. Турбіна, 3 С. (у 2-х легендах як на 1-м, у 3-м — **владимир а се его сребро** і **исус христос**) зберагаюцца ў Гістарычным музеі (Масква); у 1886 у складзе *Парэцкага манетна-рэчавага скарбу* фрагмент С. Уладзіміра 3-га тыпу. Зберагаецца ў Эрмітажы. Да 1-га тыпу С. Яраслава Мудрага можна аднесці *манеты-перайманні* ў выглядзе падвесак-упрыгожанняў, выяўленых на ахвярных месцах у Лапландыі і землях, падпарадкаваных Ноўгараду.

*Літ.:* 104, 239, 1598, 1600, 1610, 1618.
*В. Н. Рабцэвіч.*

**СТАБРО́ЎСКІ** Іосіф Іосіфавіч [21.10(2.11).1869, Слонім — 15.1.1968], беларускі археолаг і краязнавец. Чл.-кар. Віленскага аддзялення Маскоўскага археал. т-ва, чл. Яраслаўскага археал. т-ва. Скончыў Полацкі кадэцкі корпус, Маскоўскі археал. ін-т, Вышэйшыя археал. курсы пры Самарскім ун-це. Удзельнік 1-й сусветнай вайны, палкоўнік. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі служыў у Чырвонай Арміі. У 1921 вярнуўся на радзіму. Вывучаў стараж. гісторыю Слонімшчыны і суседніх раёнаў, даследаваў курганы ў басейне Нёмана. Вял. асабістая калекцыя гіст.-археал. матэрыялаў С. пазней стала асновай *Слонімскага краязнаўчага музея*, дзе ён быў дырэктарам і хавальнікам фондаў.

*Літ.:* 35. *Я. Г. Звяруга.*

**СТАНІСЛАЎДО́Р** (франц. Stanislav d'or, Stanislavdor залаты Станіслава), залатая манета Рэчы Паспалітай, парытэтная 3 *дукатам* (*каратная проба* 20, *лігатурная маса* 12,34 г).



І. І. **Стаброўскі.**




**Станіслаўдор** 1794.

Выпускаў у час паўстання 1794 паўстанцкі ўрад ад імя караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага на *Варшаўскім манетным двары*. Тэрмін С., як і *аўгустдор*, узнік пад уплывам назвы французскай залатой манеты — луідора (залаты Людовіка). Эмітавалася таксама фракцыя ў 1/2 С. (проба 20, маса 6,17 г).

*Літ.:* 1669, 1682.

**СТАПА́** манетная, устаноўленая законам колькасць грашовых адзінак, якія выбіваліся ў манеце розных наміналаў з адзінкі вагі лігатурнага металу (гл. *Лігатурная маса*). С. можа вызначацца колькасцю грашовых адзінак, выбітых з адзінкі вагі чыстага металу незалежна ад пробы і наміналу, таксама апасрэдавана і лігатурнай масай розных наміналаў.

*Літ.:* 1534, 1753.

**СТАРАДЗЕ́ДЗІНСКІ МАНЕ́ТНЫ СКАРБ.** Знойдзены пры зліцці р. Асцёр з р. Сож каля в. Стары Дзедзін Клімавіцкага р-на ў 1926. Змяшчаўся ў двух гліняных гаршках. У Бел. дзярж. музей паступілі фрагменты гаршка і 205 манет — 202 куфіцкія *дырхемы* (6 цэлых, 196 абрэзаных па крузе або фрагментаваных; старэйшы — 811—812, малодшы 978—979), 2 *дэнарыі* Германіі і 1 *міліярысій* Візантыі.

Арабскі Халіфат. Дынастыя Абасідаў (7 экз.), манетныя двары Араджан (2 экз.), Балх (1), Ісбахан (1), Мадынат ас-Салам (1), Насібін (1), Хамадан (1). Эміры Саманіды (161 экз.), манетныя двары Андэраба (8), Балх (5), Бухара (19), Маадэн (1), Нісабур (2), Самарканд (40), аш-Шаш (86). Эміры Буіды (4 экз.), манетныя двары ал-Ахваз (1), Джэнаба (3). Эміры Зіярыды (2 экз.), манетны двор Сарыя (1), нявызначаны манетны двор (1). Эміры Хамданіды (1 экз.), манетны двор Антакія. Волжская Булгарыя — дырхем. Перайманні дырхемам Абасідаў (2 экз.), Саманідаў (11) і нявызначаным прататыпам (13). Германія: Атон І [936—973] — дэнарый (1 экз.). Герцаг Генрых II Баварскі [955—957] — дэнарый (1 экз.). Візантыя. Іаан Цімісхій [969—976] — міліярысій (1 экз.). Скарб ухаваны каля 979.

*Літ.:* 1569, 1745. *В. Н. Рабцэвіч.*

**«СТАРАЖЫТНАРУ́СКАЯ ДЗЯРЖА́ВА І СЛАВЯ́НЕ»,** зборнік матэрыялаў рэспубліканскага сімпозіума «Усходнія славяне і Кіеўская Русь», які адбыўся 1—3.12.1981 у Мінску ў АН БССР з удзелам археолагаў і гісторыкаў Беларусі, Прыбалтыкі, РСФСР, Украіны. Выдадзены ў 1983 у Мінску на рус. мове.

У раздзел «Славяне і іх суседзі» ўвайшлі звесткі пра гістарыяграфію Усх. Беларусі (Вас. А. Булкін), матэрыялы даследаванняў могільнікаў (Г. М. Залашка) і паселішчаў (М. І. Лашанкоў, С. Я. Расадзін, А. А. Егарэйчанка, В. І. Шадыра, Ф. М. Завярняеў) ранняга жал. веку, помнікаў кіеўскай (В. Д. Гапак) і калочынскай (Я. А.

Гаруноў) культур, паказаны зах.-слав. ўплыў на раннесярэдневяковую культуру Беларусі (В. Б. Перхаўка), кантакты ўсх.-славянскіх з эстонскімі (Ю. Селіранд) і балтыйскімі (Л. У. Дучыц) плямёнамі, удакладнены межы рассялення радзімічаў (У. У. Багамольнікаў), асветлены пахавальныя абрады смаленскіх (Я. А. Шмідт) і полацкіх (Ю. А. Заяц) крывічоў, радзімічаў (А. М. Плавінскі), дрыгавічоў (Т. М. Каробушкіна), насельніцтва Верхняга Панямоння (К. В. Паўлава). У раздзеле «Гарады і іншыя пасяленні» разгледжаны пытанні ранніх этапаў гісторыі гарадоў Панямоння (Я. Г. Звяруга), сувязей бел. стараж. гарадоў з Прычарнамор'ем і Сяродземнамор'ем (Ф. Д. Гурэвіч), прыведзены вынікі раскопак у Віцебску (М. А. Ткачоў, Л. У. Калядзінскі), Брэсце (П. Ф. Лысенка), Мінску (П. А. Русаў, В. Е. Собаль), Вішчынскага замка (Э. М. Загарульскі), даследаванняў керамікі 12—15 ст. паўн.-ўсх. Беларусі (В. М. Ляўко), шкляных упрыгожанняў (Ю. Л. Шчапава, Т. С. Скрыпчанка), трохпалосных нажоў 10—12 ст. (М. Ф. Гурын), непаліванага посуду (Н. І. Здановіч). У раздзеле «Пытанні гісторыі Старажытнарускай дзяржавы» прааналізаваны праблемы вывучэння помнікаў дойлідства Полацка (Вал. А. Булкін), Ю. В. Хадыка, В. В. Церашчатава), Гродна (І. М. Чарняўскі), Навагрудка (М. У. Малеўская-Малевіч) і інш. гарадоў Беларусі (А. А. Трусаў, П. А. Рапапорт, Г. П. Лебедзеў). Змешчаны ілюстрацыі, карты, планы, бібліяграфія.

*У. У. Багамольнікаў.*

**«СТАРАЖЫТНАСЦІ БЕЛАРУСІ»,** зборнік матэрыялаў да ўсесаюзнай археал. канферэнцыі па археалогіі Беларусі і сумежных тэрыторый, якая адбылася ў сакавіку 1966 у Мінску. Выдадзены ў 1966 у Мінску (на рус. мове).

Змешчана 37 дакладаў і паведамленняў, прысвечаных новым даследаванням стараж. гарадоў Беларусі, пытанням гіст. развіцця рэспублікі ва ўзаемасувязі з гіст. працэсамі Усх. Еўропы, у т. л. пра мезаліт і неаліт Прыпяцкага Палесся (У. Ф. Ісаенка), крэменездабыўныя шахты (Н. М. Гурына), некаторыя вынікі вывучэння неалітычных паселішчаў Панямоння (М. М. Чарняўскі), помнікі ранняга жал. веку Пн Беларусі (К. П. Шут), новыя дадзеныя пра помнікі 6—8 ст. сярэдняй і паўн. Беларусі (А. Р. Мітрафанаў), вывучэнне стараж. гарадоў Полацкай (Г. В. Штыхаў), Тураўскай (П. Ф. Лысенка) земляў, пра раскопкі стараж. Слоніма (Г. І. Пех), Ваўкавыска (Я. Г. Звяруга), знаходкі куфічных дырхемаў на тэр. Беларусі (В. Н. Рабцэвіч), паходжанне беларусаў па матэрыялах археал. раскопак і знаходак (В. В. Сядоў), працы Л. Д. Победя, Л. В. Аляксеева, В. Р. Супруна і інш. Змешчаны ілюстрацыі, бібліяграфія.

*Г. В. Штыхаў.*

**«СТАРАЖЫТНАСЦІ БЕЛАРУСІ»,** зборнік матэрыялаў па археалогіі Беларусі да ўсесаюзнай археал. канферэнцыі, якая адбылася ў сакавіку 1969 у Мінску. Выдадзены ў 1969 у Мінску (на рус. мове).

Змешчана 26 дакладаў і тэзісаў, прысвечаных даследаванням розных эпох гісторыі Беларусі з часоў з'яўлення першабытнага чалавека да сярэднявечча, у т. л. пра палеаліт Беларусі і сумежных тэрыторый (У. Дз. Будзько), даследаванні неалітычных паселішчаў Крывінскага тарфяніка, Панямоння і Паўн.-Зах. Паазер'я (М. М. Чарняўскі), каменны век Палесся (У. Ф. Ісаенка), агляд археал. даследаванняў Полацкай зямлі і раскопак у Лукомлі (Г. В. Штыхаў), схема стратыграфіі і палеаграфіі верхняга плейстацэну Беларусі і сумежных тэр. (Л. М. Вазнячук, Будзько, А. Г. Калечыц), пра даследаванні раннефеадальных помнікаў Тураўскай зямлі, гарадзішча Давыд-Гарадка (П. Ф. Лысенка), Ваўкавыска (Я. Г. Звяруга), селішча Гарадзішча Мядзельскага р-на (А. Р. Мітрафанаў), пра рус. медную манету 17 ст. ў скарбах Беларусі і Украіны (В. Н. Рабцэвіч, У. А. Ціток), працы Л. Д. Побаля, І. М. Ціханенкава, К. П. Шута, В. В. Шчагловай, Ю. І. Драгуна і інш. Змешчаны бібліяграфічныя арт., прысвечаныя пачынальніку бел. навук. археалогіі К. П. Тышкевічу (С. А. Акуліч) і краязнаўцу І. І. Стаброўскаму (Г. І. Пех). Кніга праілюстравана, ёсць бібліяграфія.

**«СТАРАЖЫТНАСЦІ БЕЛАРУСІ І ЛІТВЫ»,** зборнік артыкулаў па пытаннях стараж. гісторыі Усх. Еўропы. Выдадзены ў 1982 у Мінску на рус. мове. Складаецца з трох раздзелаў: каменны і бронзавы вякі, жал. век, эпоха феадалізму. Матэрыялы напісаны на аснове даследаванняў маладых археолагаў Беларусі і Літвы, абагульненняў імі папярэдніх знаходак і адкрыццяў.

У зборніку змешчаны артыкулы бел. вучоных-археолагаў: пра археал. даследаванні на Беларусі ў 1920-я г. (В. С. Вяргей), раскопкі помнікаў каменнага веку (Э. М. Зайкоўскі, У. П. Ксяндзоў, В. Л. Ліпніцкая), гарадзішчаў ранняга жал. веку (М. Ф. Гурын, А. А. Егарэйчанка, М. І. Лашанкоў, В. І. Шадыра), вывучэнне гарадоў і паселішчаў сярэднявечча (Ю. А. Заяц, Л. У. Калядзінскі, Я. Р. Рыер, В. Е. Собаль), курганныя могільнікі (У. У. Багамольнікаў, Л. У. Дучыц, В. А. Карпека), стараж. вырабы са шкла (Т. С. Скрыпчанка), керамікі (В. М. Ляўко) даследаванні Полацкага Сафійскага сабора (А. А. Трусаў). *В. Г. Штыхаў.*

**«СТАРАЖЫТНАСЦІ ЛІТВЫ І БЕЛАРУСІ»,** зборнік артыкулаў маладых вучоных ін-таў гісторыі АН Літвы і АН Беларусі. Выдадзены ў 1988 у Вільнюсе на рус. мове. Складаецца з трох раздзелаў: каменны век, жал. век, ранняе сярэднявечча і эпоха феадалізму.

Бел. археолагі выступілі з характарыстыкай рысаў мезаліту Усх. Палесся (Н. В. Цыкунова), этапаў развіцця неаліту Паўн. Беларусі (Э. М. Зайкоўскі), «качкі» ў вераванных неалітычных плямён Беларусі (М. М. Крывальцэвіч), апісаннем асобных помнікаў, у т. л. стаянкі Цыганаўка ў Сярэднім Падняпроўі (А. М. Гутоўскі), гарадзішчаў Харомск (Г. М. Залашка), Івань (А. А. Егарэйчанка) і Ястрабка (М. І. Лашанкоў), курганоў каля в. Лясная (Л. У. Дучыц), этапаў засялення Мінска (В. Е. Собаль), транспартных сродкаў Віцебска 12—17 ст. (Л. У. Калядзінскі), шкляных вырабаў з Віцебска (Т. С. Бубенька), пражскага гроша (Ш. І. Бекцінееў), раскопак у Міры (А. К. Краўцэвіч, Н. І. Здановіч), даследаванняў Пінскага калегіума езуітаў (І. М. Чарняўскі). *Г. В. Штыхаў.*

**СТАРА-КРАСНАЕ,** гарадзішча *мілаградскай культуры* каля в. Стара-Краснае Рэчыцкага р-на. За 1,3 км на ПнЗ ад вёскі, на левым беразе р. Днепрык (прыток р. Ведрыч), ва ўрочышчы Гарадок. Гарадзішча авальнай формы, складаецца з жылой і нежылой пляцовак. Жылая пляцоўка прамавугольная ў плане (пл. 4300 $м^2$), умацавана ўнутраным (шыр. 12—15 м), выш. 1,4—1,9 м, даўж. па перыметры 250 м) і знешнім (шыр. 6—8 м, выш. 0,8—1,5 м, даўж. 250 м) валамі і ровам паміж імі шыр. 4—5 м, глыб. 0,5—0,8 м. Нежылая частка гарадзішча круглаватай формы (пл. 5500 $м^2$), умацавана валам шыр. 10—12 м, выш. 0,5—1,1 м, даўж. 225 м. Агульная пл. помніка 17 500 $м^2$. Гарадзішча ўпамінаецца ў Давеццы археал. камісіі АН БССР 1929. Абследаваў у 1976 Г. В. Штыхаў, даследаваў у 1981—83 М. І. Лашанкоў (480 $м^2$). Культурны пласт 0,4—0,6 м.

Знойдзены фрагменты керамікі мілаградскай культуры (гладкасценныя і грубаляпныя міскі і гаршкі з адагнутым венчыкам, моцнапрафіляваным тулавам, шарападобным ці закругленым дном, аздобленыя па шыйцы ўціскаккямі), гаршкі без шыйкі з загнутым унутр краем венчыка, 2 жал. сякеры (клінападобная з адтулінай і кельт), частка ўтулкі дроціка, 2 шпількі (з кальцавым навершам і кіепадобная), ніжнія і верхнія камяні зерняцёркі, таўкачы, ступка, тачыльныя камяні, абломак грузіла, накаваленка, крамянёвыя прылады працы (нож, пласціністы адшчэп, скрабок і інш.), 2 шкляныя пацеркі, вырабы з гліны (абломкі тыгляў, льячак, формы для адліўкі бранзалетаў, грузікі крыжападобнай, посудападобнай, біканічнай, цыліндрападобнай, шпулепадобнай і круглаватай формы), косці свойскіх (быка, каня, свінні) і дзікі (лася, ізюбра) жывёл, кавалкі здробненай балотнай руды і шлакаў.

Датуецца 6—3 ст. да н. э.

*Літ.:* 694, 695, 1353. *М. І. Лашанкоў.*

**СТАРАЯ ЛУТАВА,** познамезалітычная стаянка *яніславіцкай культуры* каля в. Старая Лутава Лоеўскага р-на. За 700 м на Пн ад вёскі, на 1-й надпоплаўнай тэрасе правага берага Дняпра. Пл. 200 $м^2$. Выш. над узроўнем вады 8 м. Выявіў у 1977 і даследаваў у 1978 У. П. Ксяндзоў (78 $м^2$). Культурны пласт часткова разбураны ветравой эрозіяй.

На глыб. 0,5—0,6 м знойдзена больш за 670 прадметаў з «сожскага» крэменю: сіметрычны тронкавы наканечнік стралы, авальныя скрабкі з адшчэпаў, яніславіцкія і ланцэтападобныя вастрыі, скоблі, трапецыі, пласцінка з затупленым краем, укладышы, нуклеусы, рэтушаваныя адшчэпы і пласціны, а таксама рэшткі абпаленых касцей жывёл.

*Літ.:* 618, 619. *У. П. Ксяндзоў.*

**СТАРАЯ РУДЗІЦА,** гарадзішча *штрыхаванай керамікі культуры* ка-

ля в. Старая Рудзіца Дзяржынскага р-на. За 500 м на З ад вёскі, на левым беразе р. Глінянка (прыток р. Усы). Пляцоўка памерам 52×48 м, умацавана ўнутраным валам выш. 1,2—1,3 м, шыр. 5,4 м, знешнім валам выш. 0,8 м, шыр. 6 м і ровам паміж імі глыб. да 3,5 м. З усх. боку прасочваецца ўезд на гарадзішча. Адкрыў у 1929 А. М. Ляўданскі, які правёў на помніку невял. раскопкі. Даследаваў 110 м² у 1952 А. Р. Мітрафанаў. Прасочаны 2 этапы пабудовы абарончых умацаванняў.

Выяўлены рэшткі доўгага шматкамернага жытла слупавой канструкцыі з аднасхільным перакрыццем (слупавыя ямы размяшчаліся ўздоўж унутранага вала парамі). Ускрыты 2 камеры поўнасцю і 1 часткова (даўж. 9—10 м, шыр. 3,5—4,5 м), у адной з іх размяшчалася агнішча з пясчана-гліністага пласта, абкладзенае з трох бакоў камянямі. Знойдзены абломкі керамікі, аналагічнай посуду *мілаградскай культуры*, фрагменты гладкасценных штрыхаваных рабрыстых, слоікападобных і слабапрафіляваных гаршкоў, а таксама гліняныя прасліцы, бронзавае драцяное кольца дыям. 3 см, фрагмент пласціністага ўпрыгожання і спіралькі.

*Літ.:* 785, 788. *А. Р. Мітрафанаў.*

**СТАРО́Е СЯЛО́**, археал. помнікі каля в. Старое Сяло Віцебскага р-на.

Гарадзішча *днепра-дзвінскай культуры.* За 2,5 км на Пд ад вёскі, на мысе правага берага Зах. Дзвіны. Памеры 30×70 м, выш. над поплавам 20 м, з боку поля ўмацавана валам выш. каля 1,2 м. У 1928 даследаваў А. М. Ляўданскі, абследавалі ў 1972 Г. В. Штыхаў, у 1981 Л. У. Калядзінскі. У траншэі даўж. 11 м, шыр. 3 м выяўлены культурны пласт 0,5—1 м.

Знойдзены ляпны гладкасценны і штрыхаваны посуд, 2 жал. нажы, фрагмент жал. дужкі, косці жывёл. Датуецца 3—4 ст. н. э.

Селішча. З зах. боку гарадзішча. Памер 200×50 м. Даследавалі ў 1928 Ляўданскі і С. А. Дубінскі. У агаленнях знойдзена кераміка. Датуецца 6—8 ст.

Курганны могільнік-1 крывічоў. На тэр. селішча. 16 насыпаў, з іх 2 доўгія. Выш. круглых 1,5 м, дыям. 8—10 м, даўж. доўгіх курганоў 20—25 м, шыр. 8—10 м, выш. 2,5 м. 4 насыпы даследавалі ў 1928 Ляўданскі і Дубінскі, абследаваў у 1973 Штыхаў. Пахавальны абрад — трупаспаленне. Знойдзены ляпны і ганчарны посуд. Датуецца 9—10 ст.

Курганны могільнік-2. За 1 км на У ад вёскі. Захаваліся 3 насыпы (2 на полі, 1 у лесе) выш. 1—1,5 м, дыям. 8—10 м. У 1973 адзін курган даследаваў Штыхаў. Знаходак не было. Датуецца 2-й пал. 1-га тысячагоддзя н. э.

Курганны могільнік-3. За 1,8 км на У ад вёскі, у лесе. 12 насыпаў выш. 1,8—2 м, дыям. 10—14 м. Мясц. назва Французскія магілы. Адкрыў і абследаваў у 1981 Калядзінскі.

*Літ.:* 714.

*Л. У. Калядзінскі, Г. В. Штыхаў.*

**СТАРЫ́ ШКЛОЎ**, археал. помнікі 12—16 ст. каля вёсак Стары Шклоў і Хоцімка Шклоўскага р-на.

Гарадзішча «Гарадок» — замчышча. Размешчана на левым беразе р. Шклавянка. Пляцоўка мае форму, блізкую да 4-вугольніка (60×64×30×57 м). У паўн. яе частцы захаваліся сляды варонкападобнага калодзежа. З Пн, У і З гарадзішча было абаронена крутымі і высокімі схіламі (15—17 м) і не мела штучных земляных умацаванняў. Тут стаялі драўляныя гародні і вежы. З зах. боку быў насыпаны земляны вал шыр. да 20 м у аснове, выш. каля 5 м і выкапаны глыбокі (да 10 м) роў. Даволі шырокая (4,5—5 м) пляцоўка на вяршыні вала дазваляла размяшчаць тут абарончыя сцены і вежы любой канструкцыі, ставіць гарматы. Даследавалі ў 1967 Г. В. Штыхаў, у 1982 128 м² М. А. Ткачоў, у 1988 В. М. Ляўко. Культурны пласт у ямах ад 0,4 да 1,05 м, мае інтэнсіўна чорны або цёмна-шэры колер. Дрэнна захоўвае прадметы арганічнага паходжання, стратыграфічна не дзеліцца. У ім выяўлена ляпная кераміка і шпора 5—6 ст., ганчарная кераміка 12—13 ст., у т. л. з рэдкімі клеймамі ў выглядзе крылатых грыфонаў на днішчах гаршкоў, шкляныя і бронзавы драцяны бранзалеты, шыферныя праселкі, нажы, жал. наканечнікі стрэл, ледаходны шып. Сляды жытлаў прасочваюцца па развалах печак-каменак, наяўнасці вял. колькасці вугалля, попелу, касцей жывёл. У пласце 14—16 ст. знойдзена тэракотавая і паліваная кераміка 16 ст., упрыгожаная насечкамі шпора з калёсікам, паліваная і тэракотавая гаршковая кафля 2-й пал. 16 ст., вухналі, косці. У дзярновым пласце былі попел і вугалле, што сведчыць пра неаднаразовае знішчэнне Старашклоўскага замка пажарамі ў 16 ст.

Першыя пісьмовыя звесткі пра С. Ш. адносяцца да 1535 і звязаны з паходам сюды войска рус. ваяводы Шуйскага, якое спаліла паселішча і ўсе навакольныя вёскі. Да 1542 Шклоў належаў роду Гаштольдаў (Гастаўтаў), які хутка згас, потым — роду Хадкевічаў. Адзін з іх, Еранім, меў тытул графа і называў свае ўладанні вакол Шклова «графствам». Відаць, з сярэдзіны 16 ст., з моманту пераходу горада да Хадкевічаў, лёс яго раздвоіўся. Важны водны гандл. шлях па Дняпры, які праходзіў па землях магнатаў Хадкевічаў, навёў, верагодна, іх на думку стварыць на беразе Дняпра новае паселішча, якое атрымала назву Шклоў. Некаторы час абодва паселішчы існавалі паралельна. Каб іх адрозніць, ужываліся назвы «место Шкловское» для новага горада і «Старый Шклов» для ранейшага радаводнага і гіст. гнязда. У 1570-я г., амаль аднаchасова з Магілёвам, Шклоў атрымаў магдэбургскае права. «Бурмистр места Шкловского Исай Зенович» называецца ў дакуменце за 1577 адначасова з войтам, радцамі і лаўнікамі. У той жа час згадваюцца прадстаўнік адміністрацыі «подвойский Старошкловский Ермак Миткович» і «пушкарь Аникей старошкловский». Хаця Шклоў знаходзіўся ў баку ад старой ваеннай дарогі Дуброўна — Орша — Мінск — Вільня, войны не абмінулі яго. У Лівонскую вайну (1558—83) горад двойчы ў 1562 і 1580 быў спалены рус. войскамі. І калі пасля 1562 С. Ш. як горад яшчэ згадваецца ў дакументах, то пасля 1580 звесткі пра яго адсутнічаюць. Напачатку жыццё «на два Шкловы», відаць, задавальняла іх уладальнікаў. Пад апекай С. Ш. новае «место Шкловское» паступова ператварылася ў адзін з буйнейшых гарадоў Беларусі. Знішчэнне іх у 1580, верагодна, зняло пытанне пра існаванне двух Шкловаў. «Места Стары Шклоў» прыйшло ў заняпад і паступова ператварылася ў аднайменную вёску. Умацаванні замка больш не выкарыстоўваліся.

Селішча. Размешчана на З ад замка. Культурны пласт 0,15—0,30 м, разворваецца. У ім трапляецца кераміка 12—15 ст.

*Літ.:* 1497. *М. А. Ткачоў.*

**СТАРЫ́Я ВО́ЙКАВІЧЫ**, стаянкі каменнага і бронзавага вякоў каля в. Старыя Войкавічы Баранавіцкага р-на.

Стаянка-1. За 800 м на З ад вёскі, на зах. краі поля Бабравец, каля тарфяніку, які знаходзіцца на Пд ад Калдычэўскага воз. Займае край карэннага берага б. возера паміж магістральным каналам, якім спрастана рэчышча Шчары, і левабярэжным водаадводам. Памер 40×60 м. Даследаваў у 1980 М. М. Чарняўскі (ускрыта 80 м²). Культурны пласт 0,4—0,6 м.

Знойдзены крамянёвыя прылады працы і зброя, сярод якіх лістападобныя наканечнікі дзід, фрагменты керамікі з грабеньчатым, накольчатым і пракрэсленым арнаментам нёманскай неалітычнай культуры. Стаянка пэўны час была заселена ў бронзавым веку, пра што сведчаць фрагменты пласкадоннага посуду са штампаваным і шнуравым арнаментам, абломкі каменных сякер.

За 100—300 м на Пн і ПнУ ад стаянкі на выступах карэннага берага ёсць сляды паселішча каменнага веку.

Стаянка-2. За 150 м на Пд ад стаянкі-1, на выступе карэннага берага возера. Памер 40×80 м. Культурны пласт 0,3 м. Знаходкі, аналагічныя знаходкам са стаянкі-1. На помніку — сляды сярэдневяковага селішча. *М. М. Чарняўскі.*

**СТАРЫ́Я ЛА́ЎКІ**, паселішча эпохі неаліту і бронзавага веку каля в. Старыя Лаўкі Чашніцкага р-на. На Пд ад вёскі, на мысе левага берага р. Лукомка. Выявіў у 1930 А. Дз. Каваленя, даследаваў у 1967 І. М. Ціханенкаў, абследаваў у 1981 Э. М. Зайкоўскі. Ускрыта 200 м². Культурны пласт 0,3—0,5 м.

Выяўлены 6 агнішчаў у выглядзе паглыбленых на 0,3—0,5 м у мацярык ям, запоўненых попельна-вугальнай масай. Знойдзены крамянёвыя прылады працы: больш за 30 канцавых скрабкоў (у т. л. двайныя, бакавыя на адшчэпах круглаватай і мысападобнай форм), 19 мікраскрабкоў, 3 скоблі, некалькі дзесяткаў крамянёвых загатовак, 50 разцоў (з іх 30 вуглавыя, у т. л. 2 двайныя, астатнія сярэдзінныя, сярэдзінна-вуглавыя і канцавыя), праколкі, вастрыі, нажы і ножападобныя пласціны, мікрапласцінкі, укладышы рознай формы, наканечнікі стрэл 4 тыпаў (ромбападобныя з рэтушшу па краях, тронкавыя бабінавіцкага тыпу, трохвугольныя, з бакавымі выемкамі), 2 наканечнікі дзідаў. Кераміка (165 фрагментаў) у асноўным бабінавіцкага тыпу, храналагічна падзяляецца на 3 групы: ляпны посуд з дамешкамі пяску ці тоўчанага кварцу ў цесце, з падгарызантальнымі расчосамі пераважна на ўнутранай паверхні, у асноўным неарнаментаваны або з адбіткамі грабянцовага штампа, наколамі адступаючай палачкі, прачэрчанымі лініямі; посуд з арганічнымі дамешкамі ў цесце і расчосамі знутры; гладкасценны посуд з арганічнымі дамешкамі, арнаментаваны адбіткамі грабянцовага штампа, «вусеневым» узорам, наколамі. Частка керамікі з дамешкамі жарствы і буйназярністага пяску, моцным абпалам, двухбаковай падгарызантальнай штрыхоўкай і слабапрафіляванымі венчыкамі адносіцца да ранняга бронзавага веку.

Паселішча датуецца 3-м — пачаткам 1-га тысячагоддзя да н. э.

*Літ.:* 471, 1185. *Э. М. Зайкоўскі.*

**СТАРЫЯ ЮРКО́ВІЧЫ,** паселішча *днепра-данецкай культуры* эпохі неаліту, шнуравой керамікі культуры і ўсх.-тшцінецкай культуры бронзавага веку і *зарубінецкай культуры* ранняга жал. веку каля в. Старыя Юрковічы Любанскага р-на. За 1,2 км на ПнУ ад вёскі, ва ўрочышчы Гудзіна. Выш. над поймай р. Арэса 5—8,6 м. Памер 200×50 м. Выявіў у 1980 і даследаваў 688 м² у 1985—87 М. М. Крывальцэвіч. Культурны пласт 0,4—0,6 м. Большая частка знаходак адносіцца да эпохі неаліту.

Выяўлены сляды жытла (3,1×1,5 м, заглыбленага на 0,6 м) з агнішчам, крамянёвымі вырабамі і абломкамі 2 гаршкоў, 6 гасп. ям няправільнай формы даўж. 2,2—3,8 м, шыр. 0,9—1,2 м і глыб. каля 1,2 м. Знойдзена 2250 фрагментаў посуду, больш за 700 адзінак мікралітычных крамянёвых прылад (разцы, нажы, скрабкі, скоблі, рэтушоры, вострaканечнікі, сякера, наканечнікі стрэл, праколкі, пласцінкі і інш.) эпохі неаліту, кераміка ўсх.-тшцінецкай культуры (абломкі буйных гаршкоў з высокімі прамымі гарлавінамі, выгнутымі венчыкамі і «каўнерыкамі», арнаментаваных лінейнымі штампамі, шнуравымі і вусеневымі адбіткамі, з ружанцовым арнаментам), крамянёвыя трохвугольныя наканечнікі стрэл, нажы, лязо ад шліфаванай сякеры-кліна і рэшткі каменных цясла, шліфавальных плітак, бронзавая шпілька з лебедзепадобнай шыйкай (магчыма, 7—6 ст. да н. э.). У верхнім пласце выяўлены 2 нагрувашчванні абпаленых камянёў, на ўсёй тэр. помніка, асабліва ў межах каменных выкладак і каля іх,— фрагменты керамікі зарубінецкай культуры. Знойдзены рэшткі згарэлага наземнага прамавугольнага жытла са слядамі агнішча ў выглядзе абпаленых камянёў і вуголля (адносіцца, відаць, да 3-й чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э.). У перыяд позняга феадалізму самая высокая частка тэр. помніка выкарыстоўвалася пад могілкі.

*Літ.:* 614. *М. М. Крывальцэвіч.*

**СТА́СЕЎКА,** познамезалітычная стаянка днепра-дзяснінскай культуры каля в. Стасеўка Бабруйскага р-на. За 750 м на З ад вёскі, на 2-й надпоплаўнай тэрасе правага берага р. Бярэзіна. Выш. над узроўнем вады 10 м. Выявіў і даследаваў у 1978 У. П. Ксяндзоў (90 м²). Культурны пласт разбураны ворывам.

На глыб. 0,2—0,4 м знойдзены рэшткі круглаватага ў плане жытла (дыям. каля 5 м) і агнішча (дыям. каля 2 м), прылады з «сожскага» крэменю: разцы, скрабкі з пласцін і адшчэпаў, праколкі, трапецыя, наканечнік стралы, вастрыё, скоблі, рэтушаваныя пласціны і адшчэпы, нуклеусы.

*Літ.:* 619. *У. П. Ксяндзоў.*

**СТАТЫСТЫ́ЧНЫЯ МЕ́ТАДЫ,** даследаванні сукупнасцей рэчаў, масавых з'яў спец. матэматычнымі метадамі. У археалогіі выкарыстоўваюцца з мэтай выяўлення сацыяльна-эканам. заканамернасцей, узаемасувязей паміж рэчамі, комплексамі і з'явамі, вызначэння найб. верагоднага, распаўсюджанага, характэрнага для археал. культур, комплексаў і помнікаў, суадносін паміж імі, ступені падабенства і разыходжання, генетычнай і этнічнай блізкасці, пераймальнасці. С. м. папярэднічае навукова арганізаваны збор звестак, статыстычныя назіранні і вылучэнне якасна аднародных груп. Пры гэтым выкарыстоўваюцца *тыпалогія, параўнальна-тыпалагічны метад, выбарачны метад.* Аб'екты (адзінкі) назіранняў характарызуюцца шэрагам асаблівасцей, па некаторых абагульняючых, загадзя абумоўленых прыкметах аб'ядноўваюцца ў сукупнасці (тыпы, групы, катэгорыі, класы). Такая групоўка можа адлюстроўвацца статыстычнымі табліцамі, графікамі, дыяграмамі, гістаграмамі, картаграмамі і інш. Робяць ацэнку і ўлічваюць памылку выбарак (у адпаведнасці з «законам вялікіх лічбаў»), складаюць варыяцыйныя рады, вылічваюць сярэднія велічыні, адхіленні, дысперсіі, моду, уводзяць розныя крытэрыі падабенства, каэфіцыенты, графы. З дапамогай карэляцыі вызначаюць рэальна існуючыя суадносіны паміж узаемазалежнымі паказчыкамі (калі адзін з іх залежыць ад некалькіх фактараў і таму адназначна не можа быць вызначаны, а, верагодна, вагаецца ў пэўных межах). Пры правядзенні *фактарнага аналізу* даецца колькасная ацэнка фактарам, іх дыялектыцы, ролі ў сацыяльна-эканам. працэсе. У канчатковым выніку С. м. абгрунтоўваюцца ў тэорыі верагоднасці.

*Літ.:* 262, 758, 1243. *У. Ф. Ісаенка.*

**СТАЯ́НКА,** неўмацаванае пасяленне чалавека каменнага і бронзавага вякоў, на якім пры даследаванні знаходзяць рэшткі жытлаў, агнішчаў, прылады працы, вырабы з гліны. Тэрмін узнік у 19 ст. для абазначэння месцаў часовага пасялення першабытных людзей, пазней — аседлых плямён. Самыя стараж. С. на Беларусі адносяцца да позняга палеаліту — *Бердыж, Юравічы.* Рэшткі мезалітычных С. трапляюцца па ўсёй тэр. рэспублікі — *Белая Сарока, Пятроўцы, Журавель* і інш. Неалітычныя С. размяшчаліся пераважна на рачных і азёрных тэрасах і поймавых дзюнах — *Добры Бор, Камень, Русакова, Раманавічы, Скема* і інш. На большасці неалітычных С. жыццё прадаўжалася і ў бронзавым веку. *У. П. Ксяндзоў.*

**СТО́ЛІН,** горад, цэнтр Столінскага р-на, на р. Гарынь. За 245 км на У ад Брэста, 7 км ад чыг. ст. Гарынь на лініі Лунінец — Сарны.

Археал. даследаванні ў С. ў 1989 праводзіў А. І. Дзярновіч. Закладзены 13 шурфоў і траншэя (агульная пл. 62 м²) у цэнтры горада (пл. Камсамольская, вуліцы Тэльмана і Пінская), якія сфарміраваны ў 16—18 ст. будынкамі царквы, сінагогі, гандл. радоў і інш. Культурны пласт 3—2,5 м, стратыграфічна падзяляецца на некалькі гарызонтаў: баласт 20 ст., цёмна-шэры пласт з дамешкамі бітай цэглы і вугалю (2-я пал. 18—19 ст., перыяд актыўнага будаўніцтва ў С.), светла-шэры пласт з суглінкам і светлым пяском (утрымлівае матэрыялы канца 16 — 1-й пал. 18 ст.).

Знойдзена кафля з белай гліны з тэракотавай, зрэдку зялёнай палівай, аздобленая раслінным арнаментам, фрагменты бытавой керамікі: макотры, арнаментаваныя палоскай гліны, гаршкі з выступам на венчыку (17 ст.), талеркі і міскі з лінейным і штампаваным арнаментам у выглядзе спалучэння кропак і перакрыжаваных ліній, посуд з аздабленнем, характэрным для гараднянскай керамікі, хвалістыя і роўныя паяскі, косыя рыскі чырвона-карычневага колеру, т. зв. «рубежык», нанесеныя ў 2—3 рады глінай-апіскай на верхнюю частку вырабаў. Сярод знаходак шклянкі 17—18 ст. з хвалістай барочнай лепкай вакол донцаў, грош Рэчы Паспалітай 1767, медныя манеты Расійскай імперыі.

За 1,5—2 км на У ад С.— паселішча пл. каля 7 га. Абследавала ў 1986 В. С. Вяргей. Выяўлены крамянёвыя вырабы і ляпная кераміка эпохі неаліту, бронзавага і жал. вякоў, кераміка часоў Кіеўскай Русі.

У паўд. частцы горада (раён стадыёна і дзіцячага сада № 3) знаходзіцца замчышча — археал. помнік 14—17 ст. Размешчаны на высокім абрывістым левым беразе старыцы р. Гарынь — Копанца. Пляцоўка знівеліравана пры будаўніцтве стадыё-

на. Захаваўся толькі ўчастак зах. замкавага абарончага рова даўж. каля 42 м, шыр. 12—13 м і глыб. да 3 м. Выявіў і даследаваў у 1982 М. А. Ткачоў. У абрыве берага зафіксаваны рэшткі культурнага пласта магутнасцю 0,2—0,6 м. Выяўлены керамічны матэрыял (фрагменты гаршкоў з лінейным арнаментам, макотраў і рынак 16—17 ст., курыльныя люлькі з белай і чырвонай гліны), манеты ВКЛ 17 ст., косці жывёл. Тут, верагодна, знаходзіўся дзядзінец летапіснага Століна, які неаднаразова згадваецца сярод «гарадоў пагарынскіх» 12—13 ст.

Назву горада звязваюць са стараславянскім словам «стольны», магчыма і яе патранімічнае паходжанне. У 16 ст. мяст. Пінскага пав. Берасцейскага ваяводства ВКЛ, прыватнае ўладанне з умацаваным драўляным замкам, належала Саламярэцкім, Вішнявецкім, Пацам, Солтанам, Скірмунтам, Страхоўскім і інш. У час рус.-польскай вайны 1654—67 яго штурмам узялі і спалілі ў верасні 1655 казакі І. Залатарэнкі. Спробы войск ВКЛ вызваліць Пагарыньне і Столін прывялі тады ж да вял. і няўдалай бітвы на подступах да мястэчка. Пасля гэтых падзей замак прыйшоў у заняпад.

*А. І. Дзярновіч, М. А. Ткачоў.*

**СТО́ЛІНСКІ КРАЯЗНА́ЎЧЫ МУЗЕ́Й.** Адкрыты ў 1955 у г. Столін. Мае каля 600 археал. экспанатаў (1991). У экспазіцыі аддзела археалогіі карта-схема археал. помнікаў Столінскага р-на, рэчы эпохі неаліту і бронзавага веку (крамянёвыя наканечнікі стрэл з селішча Варані, сякеры і долаты з курганных могільнікаў *Дубай* і Цераблічы, каменныя сякеры з паверхневых збораў каля Століна, вёсак Рубель, Вял. Арлы, Цмень-2, Нячатава, Глінка), жал. веку з помнікаў мілаградскай і зарубінецкай культур (бронзавыя фібулы і шпількі 1 ст. да н. э.— 1 ст. н. э. і чорнаглянцаваная кераміка з могільніка *Атвержычы*, імітацыя пахавання па абраду трупаспалення), сярэднявечча (кераміка 10—13 ст., баявы нож, суліца, капʼё, глінянае грузіла, сярэбранае сяміпрамянёвае скроневае кольца). Сярод экспанатаў план курганнага могільніка Дубай, планы і апісанні гарадзішчаў Замкавая Гара ў Давыд-Гарадку і Акоп (гл. *Белавуша*), карты-схемы тэр. Беларусі ў 10—11 і 12 ст. *Г. М. Бяліцкая.*

**СТРА́ВА,** частка *пахавальнага абраду* ў славян. Спраўлялася звычайна на кургане пасля *трызны*. Вядома на працягу сярэднявечча. Пры раскопках курганных могільнікаў на Беларусі часта сустракаюцца рэшткі С. ў выглядзе касцей птушак, рыбы, жывёл. Рэлікты С. захаваліся ў абрадзе памінак.

**СТРА́ЖАВІЦКІЯ МАНЕ́ТНА-РЭЧАВЫЯ СКА́РБЫ.** Знойдзены ў 1898 і 1903 каля в. Стражавічы Чашніцкага р-на. **Скарб 1898.** Рэчавая частка складалася з сярэбраных 4 трохгранных злiткаў, 5 злiткаў у выглядзе плітак з шурпатай паверхняй, вузкай пласціны і 11 фрагментаў такой жа пласціны, пазалочанага гузіка, трох паясных бляшак, невял. ромбападобнага ўпрыгожання, фрагментаў бляхі і кавалкаў дроту. Манетная частка складалася з 48 (16 цэлых і 32 фрагментаваныя) куфіцкіх *дырхемаў* Арабскага Халіфата (старэйшы — 916—917, малодшы — 995), 150 зах.-еўрап. *дэнарыяў* і *манет-перайманняў* іх, 9 *манетападобных пласцінак.*

Арабскі Халіфат. Дынастыя Абасідаў (1 экз.), манетны двор Мадынат ас-Салам. Эміры Саманіды (11), манетныя двары Бухара, Самарканд, аш-Шаш, нявызначаныя манетныя двары. Эміры Зіярыды (2), манетны двор Джурджан. Эміры Мерваніды (1), нявызначаны манетны двор. Эміры Хамданіды (1), манетны двор Нісібін. Нявызначаныя фрагменты (32) дырхемаў эміраў Буідаў і Саманідаў. Англія. Этэльрэд II [976—1016], манетныя двары Йорк, Лондан, Эксетэр; Канут [1016—35], манетны двор Лондан. Германія. Архіепіскап Пілігрым [1021—36], манетны двор Андэрнах; Конрад II [1024—39], манетны двор Давентэр; епіскап Бярнольд [1027—54], манетны двор Давентэр; Генрых II [1002—24], манетны двор Тыль; Конрад II [1024—37], манетны двор Тыль; Атон і Адэльгейда, нявызначаныя манетныя двары; нявызначаныя *эмітэнты*, манетныя двары Аўгсбург, Кёльн. Вендкі. Перайманні дэнарыяў Люнебурга часоў герцага Бернгарда [973—1011]. Манетападобныя пласцінкі ў метралагічных нормах дэнарыя (9 экз.). Скарб ухаваны каля 1040. Рэчавая частка і цэлыя манеты перададзены музею Магілёўскага губернскага статыстычнага к-та; фрагментаваныя дырхемы перададзены для пераплаўкі на Пецярбургскі манетны двор.

**Скарб 1903.** Рэчавая частка складалася з 2 сярэбраных злiткаў у выглядзе гранёных палачак са слядамі апрацоўкі малатком (103,63 і 201,66 г) і 2 фрагментаў такіх жа злiткаў, 4 абрубкаў серабра (10,13; 12,17; 19,46 і 37,15 г), 4 фрагментаў сярэбранай шыйнай грыўні, кольца з сярэбранага дроту, палачкападобнага залатога злiтка (78,80 г), 2 залатых пярсцёнкаў з круглага і чатырохграннага дроту. Манетная частка складалася з 46 куфіцкіх дырхемаў Арабскага Халіфата (старэйшы — 915—916, малодшы — 1010—11) і іх перайманняў, 273 (267 цэлых і 6 фрагментаваных) зах.-еўрап. дэнарыяў і іх перайманняў.

Арабскі Халіфат. Эміры Саманіды (24 экз.): Наср ібн Ахмад [914—943], манетныя двары аш-Шаш (4 экз.) і нявызначаны (1); Нух ібн Наср [943—954], манетныя двары Самарканд (1) і аш-Шаш (1); Абд ал-Малік [954—955], манетны двор аш-Шаш (1); Мансур ібн Нух [961—976], манетныя двары Амоль (1), Бухара (4), Самарканд (1), аш-Шаш (1); Нух ібн Мансур [976—997], манетныя двары Самарканд (2), аш-Шаш (1), нявызначаныя манетныя двары (6). Эміры Буіды (2): Адуд ад-даула [949—982], манетны двор Хамадан (1); Рукн ад-даула [950—967] і Адуд ад-даула, манетны двор Ісбахан (1). Эміры Зіярыды (2): Бісутун ібн Вашмгір [967—976], манетны двор Джурджан (2). Эміры Ілекі (1): Наср ад-даула, манетны двор Узгенд (1). Эміры Мерваніды (10): Хасан ібн Мерван [990—997], нявызначаны манетны двор (1); Мумахід [997—1011], манетныя двары Міяфарэкін (3), Муласая (1), нявызначаныя манетныя двары (3); Абу Наср Ахмад [1011—61], манетны двор Міяфарэкін (1), нявызначаны манетны двор (1). Акайліды (1): Хусам ад-даула [996—1001] і Сінан ад-даула [1000—03], нявызначаны манетны двор (1). Эміры Хамданіды (3): Сайф ад-даула [944—967] і Наср ад-даула [929—967], манетны двор Масул (1), нявызначаныя манетныя двары (2). Эмітэнт і манетны двор не вызначаны (1). Волжская Булгарыя (1 экз.): эмір Бармак, манетны двор Булгар (1). Перайманне куфіцкаму дырхему (1). Англія (50 экз.): Этэльрэд II — 23 экз.; Канут — 26; Гаральд [1035—40] — 1. Германія (75): граф Балдуін IV [989—1036], нявызначаны манетны двор у Фландрыі (2); Атон I [936—973], манетны двор Кёльн (5); Атон II [973—983], манетны двор Майнц (2); Атон III [983—1002], манетныя двары Кёльн (3), Андэрнах (1), Давентэр (1), Вюрцбург (1), нявызначаныя манетныя двары (13); архіеп. Пілігрым [1021—36], манетны двор Кёльн (2); архіеп. Герман II [1036—56], манетны двор Кёльн (1); Конрад II, манетныя двары Дуйсбург (1), Тыль (2); епіскап Бярнольд, манетны двор Гранінген (1); Генрых II, манетныя двары Тыль (1), Вормс (1), Страсбург (3), Аўгсбург (3); Атон і Адэльгейда, нявызначаны манетны двор (24); герцаг Бернгард II [1011—59], манетны двор Люнебург (2); архіеп. Вілігіс [975—1011], манетны двор Майнц (1); Генрых III [1039—56], манетны двор Шпеер (1); герцаг Генрых I [948—955], манетны двор Рэгенсбург (2); герцаг Генрых V [1017—26], манетны двор Рэгенсбург (1); герцаг Генрых VI [1026—40], манетны двор Рэгенсбург (1). Данія (10): Гартэкнут [1035—42], нявызначаны манетны двор (7); Магнус [1042—47], нявызначаны манетны двор (1). Перайманні англійскім дэнарыям Этэльрэда і Канута (10). Скарб ухаваны каля 1045. Залатыя і 11 сярэбраных вырабаў, 3 саманідскія, 1 буідскі і 3 мерванідскія дырхемы перададзены ў Эрмітаж, астатняя частка скарбу — у музей Варшаўскага ун-та.

*Літ.:* 1550, 1569, 1646.

*В. Н. Рабцэвіч.*

**СТРА́ЖАЎСКІ КРЫЖ,** археал. помнік 17—18 ст. Знаходзіцца на могілках в. Стража Кіраўскага р-на. Высечаны з чырвонага граніту, выш. 0,8 м, шыр. 0,5 м, таўшч. 0,3 м. З вонкавага боку па ўсёй паверхні крыжа рэльефная выява чалавека ў доўгім кафтане, падпяразаным поясам, і ў шапцы. Рукі сагнуты ў локцях, далоні на поясе. Рысы твару выразныя. Па краях лопасцяў крыжа высечаны невял. крыжыкі, з адваротнага боку ў сяродкрыжжы — крыж. На тарцовых паверхнях кры-

жа рэльефныя выявы жывёл, магчыма, леапардаў. Падобныя помнікі на тэр. Усх. Еўропы невядомы.

*Літ.:* 340, 348. *Л. У. Дучыц.*

**СТРАЛА́**, кідальны снарад для стральбы з *лука, арбалета,* самастрэла і інш. Спачатку ўяўляла сабой завостраны тонкі стрыжань з дрэва, косці, трыснягу даўж. 50—90 см. Потым пачалі выкарыстоўваць С. з наканечнікамі (з дрэва, косці, каменю, металу). Першыя наканечнікі С. на Беларусі вядомы з канца палеаліту, распаўсюдзіліся ў эпоху мезаліту. Выраблялі іх з крамянёвых пласцін. На адным канцы С. рабілася выемка для ўпору на цеціву (вушка), на другім мацаваўся наканечнік або рабіліся крамянёвыя ўстаўкі ў пазах па краях вастрыя (птушыныя С.). Часам па дрэўку наносілася апярэнне (з пер'яў птушак, лісця і інш.). Былі таксама простыя С.— без наканечнікаў, з суцэльнай загатоўкі, вастрыё якой заточвалася.

Спецыялізаваны характар палявання вызначаў шэраг тыпаў С., сярод якіх вылучаюцца С. з тупым канцом для здабывання дробных пушных звяроў і птушак. Жалезны наканечнік С. складаўся з пяра (баявой галоўкі) і насадкі (утулкі ці тронка), якой наканечнік мацаваўся да дрэўка. На тэр. Беларусі са стараж. часоў былі распаўсюджаны ўсх.-еўрап. тронкавыя і ўтулкавыя наканечнікі, характэрныя і для Зах. Еўропы. Па форме папярочнага сячэння падзяляліся на трохлопасцевыя (пайшлі ад качэўнікаў), пляскатыя, з папярочнікам у выглядзе лінзы ці сплюшчанага ромба (найбольш пашыраныя) і гранёныя, з вузкім масіўным вастрыём. У 4—3 ст. да н. э. на Пд Беларусі ў выніку кантактаў са *скіфамі* з'явіліся бронзавыя наканечнікі С. з трыма і двума лопасцямі. Да сярэдзіны 1-га тысячагоддзя н. э. трохлопасцевыя жал. наканечнікі былі вядомы на З Беларусі і ў Літве. У 10—11 ст. з пашырэннем *кальчуг* і інш. металічных даспехаў яны выйшлі з ужытку. З жал. веку да канца 18 ст. ў ваеннай практыцы і для палявання выкарыстоўвалі С. з пляскатымі наканечнікамі. Форма і памеры іх пяра залежалі ад мэты прызначэння — мелі контуры ліста, ромба ці трохвугольніка. У 16—17 ст. апошняя форма дамінавала. Гранёныя наканечнікі С., вядомыя з 1-га тысячагоддзя н. э., прызначаліся для прабівання даспехаў. Яны мелі масіўнае шылападобнае вастрыё трохвугольнага, квадратнага, рамбічнага ці шматвугольнага сячэння. Выкарыстоўваліся да паяўлення агнястрэльнай зброі. С. і наканечнікі да іх з'яўляюцца шматлікімі знаходкамі ў час археал. раскопак на Беларусі.

*Літ.:* 404, 475, 763, 1457.

*У. П. Ксяндзоў, Г. М. Сагановіч.*

**СТРАЛІ́ЦА,** паселішча верхнедняпроўскай культуры эпохі неаліту. Гл. ў арт. *Рудня Шлягіна.*

**СТРАТЫГРАФІ́ЧНЫ ПЛАСТ,** навуковы тэрмін у археалогіі гарадоў, якім пазначаецца аднародная паводле саставу, структуры і колеру частка культурнага пласта, што займае пэўнае становішча ў сістэме іншых напластаванняў. На Беларусі ўпершыню вылучаны ў 1967 П. Ф. Лысенкам у час раскопак *Давыд-Гарадка.* Прыняты і выкарыстоўваецца ў практыцы археал. даследаванняў і археал. літаратуры.

*Літ.:* 702, 704. *Л. У. Калядзінскі.*

**СТРАТЫГРА́ФІЯ** (лац. stratum насціл, слой + graphō пішу) у археалогіі, апісанне ўмоў залягання культурнага пласта археал. помнікаў адносна геалагічных напластаванняў і інш. слаёў. Апісанне вядзецца па пластах зверху ўніз з указаннем характару глебы, прыродных і культурных уключэнняў,



Жалезныя наканечнікі стрэл з селішча **Струга.**



Гліняныя прасліцы з селішча **Струга.**

парушэнняў натуральнага залягання і інш. С. дае магчымасць вызначыць змену культурных комплексаў у часе (больш стараж. рэчы знаходзяцца ў ніжэйшых гарызонтах культурнага пласта, калі ён не парушаны) і параўнаць час існавання помнікаў у пэўным месцы («вертыкальная» С.). Калі рознагачасовыя рэчы трапляюцца на адным гарызонце, выкарыстоўваюць «гарызантальную» С. (гл. *Планіграфія*). «Параўнальная» С.— параўнанне розных археал. комплексаў — дае магчымасць вызначыць храналогію асобных культурных з'яў на тэр. асобных рэгіёнаў, краін, цэлых кантынентаў і нават усяго свету. З дапамогай звестак С. вызначана адносная, а потым і абсалютная храналогія каменнага веку і абгрунтавана яго перыядызацыя. С. цесна звязана з глебазнаўствам і геалогіяй.

*Літ.:* 4. *У. Ф. Ісаенка.*

**СТРО́ЧЫЦКІ МАНЕ́ТНЫ СКАРБ.** Знойдзены ў в. Строчыца Мінскага р-на ў 1983. Складаўся з 77 медных, білонных і сярэбраных манет.

Рэч Паспалітая. Сігізмунд III Ваза — *паўтаракі* польскія (7 экз.) 1621, 1623—24, 1626—27. Ян II Казімір Ваза — *шэлег* літоўскі *(барацінка)*; шэлёнг польскі (барацінка) 1660, шустакі польскія (11 экз.) 1661—62, 1664—67, з невыразнай датай; *злоты* (тынф) 1664, 1666. Ян III Сабескі — шустакі польскія 1683, 1684. Брандэнбург. Георг Вільгельм — *драйпёлькеры* 1624 і з невыразнай датай. Прусія. Фрыдрых Вільгельм I — зэхсгрошэр 1686 (2 экз.). Іспанскія Нідэрланды. Філіп IV — чвэрць *патагона* (гл. *Альбертусталер*) брабанцкай чаканкі 1631. Расія. Фёдар Аляксеевіч [1676—82] — *капейка.* Пётр I [1682—1725] — «драцяныя» капейкі (10 экз.) 1699—1700, 1702—03, 1707, недатаваныя (37 экз.). Скарб ухаваны ў 2-й пал. 1-га дзесяцігоддзя 18 ст. Зберагаецца ў нумізматычным кабінеце БДУ.

*І. Н. Колабава.*

**СТРУ́ГА,** курганны могільнік каля в. Струга Маларыцкага р-на. За 8 км на З ад вёскі, у лесе ва ўрочышчы Крыж, абапал дарогі на б. хутар Халсціпава. 8 насыпаў выш. 0,4—0,8 м, дыям. 5,8—8,2 м. Размешчаны кампактнай групай: 7 насыпаў з правага боку дарогі, 1 — з левага. Мясц. назва Шведскія магілы. Выявіла і абследавала ў 1980 С. М. Васільева, абследавала ў 1982, 1983, 1985 Т. М. Каробушкіна, якая ў 1983 раскапала 1 курган. Пахавальны абрад — трупаспаленне па-за межамі кургана. У насыпе попельна-вугальныя плямы таўшч. 5 см, на гарызонце попельна-вугальны пласт таўшч. 10—12 см. Попел і вуголле прынесены з пахавальнага вогнішча. Датуецца 8—10 ст.

*Літ.:* 583. *Т. М. Каробушкіна.*

**СТРУ́ГА,** славянскае паселішча 7—9 ст. каля в. Струга Столінскага р-на. За 800 м на ПдЗ ад вёскі, на правым беразе р. Гарынь. Памер 220×140 м. Даследавала ў 1988—89 В. С. Вяргей (680 м²). Культурны пласт да 0,6 м. Выяўлены 4 жытлы зрубнай канструкцыі (пл. 14—17 м², паглыблены ў мацярык на 0,15—0,3 м), амаль квадратныя ў плане, арыентаваныя па баках свету. У падлозе 3-га і 4-га жытлаў гасп. ямы; у 1-м жытле — земляная прыступка ў пайд. сцяне, да 2-га жытла з паўн. боку прымыкала невял. прыбудова. У куце або каля сцяны жылых памяшканняў захаваліся развалы печаў (прамавугольныя ці квадратныя, даўж. 1,2—1,8 м), пабудаваных на каркасе з калоў.

У запаўненні жытлаў знойдзены фрагменты ляпных пасудзін, жал. выра-

баў, гліняныя прасліцы і «хлябцы». На селішчы выяўлены жал. наканечнікі стрэл з 2 шыпамі, нажы, шылы, шкляныя пацеркі, крамянёвыя наканечнікі стрэл эпохі мезаліту, гліняныя прасліцы біканічнай, цыліндрычнай, сферычнай формы, тачыльны брусок, грузілы, фрагменты ляпных пасудзін культур тыпу *Карчак, Лука-Райкавецкая* і ганчарнага посуду эпохі сярэдняй бронзы, мілаградскай і зарубінецкай культур.

*Літ.:* 192. *В. С. Вяргей.*

**СТРУГАЛА́ПЫ,** раннемезалітычная стаянка каля в. Стругалапы Мядзельскага р-на. За 300 м на ПдУ ад вёскі, на зах. беразе воз. Мядзел (1,5—2,5 м над узроўнем вады). Выявіў і даследаваў у 1979 Э. М. Зайкоўскі (144 м$^2$), даследаваў у 1986—87 У. П. Ксяндзоў (454 м$^2$). Культурны пласт разбураны ворывам і паўторным засяленнем у раннім сярэднявеччы; яго рэшткі выяўлены на глыб. 0,4 м.

Знойдзены 3,5 тыс. каменных вырабаў, у т. л. прылады з крэйдавага «нёманскага» крэменю добрай якасці: разцы бакавыя, вуглавыя і сярэдзінныя, скрабкі канцавыя і авальныя, пласціны-ўкладышы, праколкі, свердлы, вастрыі, долаты, скоблі, рэтушаваныя пласціны і адшчэпы, нуклеусы. Прыналежнасць стаянкі да пэўнай культуры не вызначана.

Датуецца 7-м тыс. да н. э.

*Літ.:* 396. *У. П. Ксяндзоў.*

**СТРУКТУ́РНЫ АНА́ЛІЗ** у археалогіі, метад навук. даследавання гіст. або культурнага працэсу не ў цэлым, а з дапамогай структур (асобных груп, блокаў звязаных паміж сабой элементаў і інш.). Структура ўяўляе сабой будову і форму ўнутранай арганізацыі пэўнай сістэмы, здольнай да перамен, развіцця. Выбар той ці іншай структуры абумоўлены мэтай даследавання. У яе склад уключаюцца пераважна элементы з найб. моцнымі сувязямі паміж сабой. Гэта азначае, што структура не з'яўляецца поўнасцю аўтаномнай, а знаходзіцца ў дынаміцы, сувязі з іншымі, змяняецца ў залежнасці ад умоў і уздзеяння на яе іншых структур. Апошняе выяўляецца пры дапамозе ўсебаковага аналізу. Унутры матэрыяльнай культуры археалогія вывучае розныя структуры (прылады працы, керамічную вытворчасць, тэхналагічныя асаблівасці і інш.). Некаторыя замежныя вучоныя разглядаюць структуры як ізаляваныя і нязменныя (т. зв. «структуралізм»), адмаўляюць шматлікія сувязі і развіццё з усімі яго супярэчнасцямі.

*Літ.:* 539. *У. Ф. Ісаенка.*

**СТРУМЕ́ЛЬ-ГАСЦЯЦІНСКАГА ТЫПУ ПО́МНІКІ,** неалітычныя помнікі Сярэдняга Падняпроўя. Размешчаны на Пн ад Кіева. Выявіў у 1951 А. П. Саўчук, потым даследаваў Дз. Я. Цялегін. Асн. прыкмета помнікаў — наяўнасць вастрадонных гаршкоў з высокімі цыліндрычнымі сценкамі і нізкім, часам шыпападобным дном.

Матэрыялам для посуду служыла камякаватая гліна з раслліннымі дамешкамі. Паверхня гаршкоў звычайна захоўвала сляды расчосаў. Верхняя частка посуду бедна арнаментавана радамі адбіткаў і вертыкальнымі стружкамі, якія наносіліся зубчастым штампам. Побач з гаршкамі трапляюцца невял. міскі. Кераміка нагадвае знаходкі каля Любчы (Навагрудскі р-н), Новага Быхава (Быхаўскі р-н), Дубічая (Пд Літвы), Сярова (Калінінградская вобл.), Эртэбёле (Данія). Яна адпавядае, верагодна, кераміцы ранняй стадыі (5—4-га тысячагоддзя да н. э.) *днепра-данецкай культуры.* *У. Ф. Ісаенка.*

**СТРУМЕ́НЬ,** комплекс археал. помнікаў каля в. Струмень Кармянскага р-на.



Наканечнікі коп'яў і серпападобны нож з паселішча-6 **Струмень.**

П а с е л і ш ч а-1 неаліту і бронзавага веку. За 200 м на З ад вёскі, ва ўрочышчы Біручыха, на пясчанай выдме зах. берага возера-старыцы Аўчыннікава Калюга. Выявіў у 1927 К. М. Палікарповіч, даследавалі ў 1976 І. І. Арцёменка і А. Г. Калечыц. Культ. пласт 0,4 м.

На пл. каля 200 м$^2$ знойдзена больш за 1300 вырабаў з крэменю (нажы, сякеры, цяслы, праколкі, свярдзёлкі, скрэблы, скоблі, разцы, наканечнікі стрэл і дроцікаў), адходы крамянёвай вытворчасці, запасы сыравіны і інш. Сярод знаходак каля 600 фрагментаў ляпнога посуду, арнаментаванага грабеньчатымі, ямкавымі, лапчастымі і накольчатымі адбіткамі, а таксама аздобленага ружанцавым, вусенічным і шнуравым арнаментам. Выяўлены рэшткі разбураных вогнішчаў адкрытага тыпу.

Матэрыялы адносяцца да эпохі неаліту (позні этап *верхнедняпроўскай культуры*), ранняга (*сярэднедняпроўская культура*) і сярэдняга (*сосніцкая культура)* перыядаў бронзавага веку.

П а с е л і ш ч а-2 бронзавага веку. Справа ад дарогі з парома праз Сож, ва ўрочышчы Гневін. Выявіў у 1962 Арцёменка. Раскопкі не праводзіліся.

П а с е л і ш ч а-3 каменнага веку. На правым беразе р. Струменка, ва ўрочышчы Града. Выявіла ў 1975 Калечыц. Раскопкі не праводзіліся.

П а с е л і ш ч а-4 эпохі неаліту і бронзавага веку. За 500 м на У ад парома, злева і справа ад дарогі ў вёску, ва ўрочышчы Жыдоўка. Выявіла і даследавала ў 1978 Калечыц.

На пл. 80 м$^2$ знойдзены нуклеусы, крамянёвыя пласціны, праколкі на канцах пласцін, адшчэпы, фрагменты керамічнага посуду, упрыгожаныя адбіткамі лінейнага і лапчастага штампа, грабеньчатым арнаментам.

П а с е л і ш ч а-5 эпохі ранняга неаліту. На ПдЗ ад вёскі, ва ўрочышчы Ліпіца. Выявіў у 1927 Палікарповіч. Раскопкі не праводзіліся.

П а с е л і ш ч а-6. За 700 м ад вёскі, у міжрэччы Сажа і Струменкі, ва ўрочышчы Лоша (Лашыная Грыва). Сістэма пясчаных узвышэнняў на левым беразе Сажа, за 1,5 км ад асн. русла. Пл. каля 7 тыс. м$^2$. Выявіў у 1927 Палікарповіч, даследавала ў 1975—80 Калечыц. На пл. каля 3 тыс. м$^2$ знойдзена больш за 48 тыс. вырабаў з крэменю і 42 тыс. з гліны. Выяўлены рэшткі 9 жытлаў, 61 гасп. ямы, 52 вогнішчы, 3 пахаванні. Матэрыялы адносяцца да эпохі неаліту (верхнедняпроўская культура), ранняга і сярэдняга перыядаў бронзавага веку (сярэднедняпроўская і сосніцкая культуры).

Неалітычныя жытлы круглыя або авальныя ў плане, дыям. 2,5—3,9 м, пл. да 12 м$^2$, мелі ачаг адкрытага тыпу. У падлозе знойдзены рэшткі ям глыб. да 0,6 м, дыям. да 0,5 м, якія маглі мець гасп. або рытуальнае прызначэнне. Вакол жытлаў шмат гасп. ям і вогнішчаў. Выразна фіксуюцца вытворчыя цэнтры па апрацоўцы крэменю і вырабу керамікі. Сярод знаходак эпохі неаліту пераважаюць адходы крамянёвай вытворчасці. У ліку гатовых вырабаў — сякеры, цёслы, скоблі, разцы, нажы, колючыя прылады, наканечнікі стрэл, дроцікаў. Гаршкі шыракагорлыя, прамасценныя, востра- і акругладонныя, арнаментаваны наколкамі грэбеня, ямкавымі і лапчастымі адбіткамі; пераважаюць гарызантальныя і дыяганальныя кампазіцыі. Культурныя рэшткі бронзавага веку выразна прадстаўлены посудам сярэднедняпроўскай культуры (шаравідныя гаршкі з круглым ці амаль плоскім дном, адагнутай вонкі шыйкай, аздобленыя адбіткамі шнура, наразнымі лініямі дробнага грэбеня, зігзагамі і інш.) і сосніцкага тыпу (пласкадонныя, зрэдку круглаватадонныя пасудзіны са скошаным звонку і патоўшчаным венчыкам, упрыгожаныя ружанцавымі, грабеньчатымі, ямкавымі і інш. адбіткамі, з якіх утвораны трохвугольныя, зігзагападобныя, гарызантальныя кампазіцыі). Сярод прылад працы бронзавага веку — сярпы, сякеры і інш.

П а с е л і ш ч а-7 эпохі неаліту і бронзавага веку. За 700 м на ПдЗ ад вёскі, на тэрасе левага берага р. Струменка, на мысе выш. каля 2 м, ва ўрочышчы Нараг. Пл. каля 2,5 тыс. м$^2$. Выявіў у 1927 Палікарповіч, даследавала 464 м$^2$ у 1975—78 Калечыц. Культурны пласт 0,6 м. Выяўлены 7 гасп. ям і 2 агнішчы.

Знойдзена каля 5 тыс. вырабаў з крэ-

меню і каля 6 тыс. фрагментаў ляпнога посуду. Крамянёвы інвентар макралітоіднага выгляду. Сярод прылад працы цёслы, сякеры, долаты, прылады тыпу «пік», скрабкі, праколкі, свярдзёлкі, разцы і інш. Рэшткі ляпнога посуду эпохі неаліту ўпрыгожаны складаным арнаментам: з дапамогай 2 вядучых элементаў — грэбеня і ямкавых адбіткаў — створаны гарызантальныя, вертыкальныя, дыяганальныя і інш. кампазіцыі. Посуд бронзавага веку з плоскім і кругларатым дном, упрыгожаны сістэмай трохвугольнікаў з наразных ліній і адбіткаў шнура.

Паселішча-8 эпохі неаліту і бронзавага веку. На Пд ад вёскі і могілак, ва ўрочышчы Падселы. Выявіў у 1927 Палікарповіч, абследаваў у 1975 В. І. Шадыра. Раскопкі не праводзіліся.

Паселішча-9 эпохі неаліту і бронзавага веку. За 2 км на ПнЗ ад вёскі, ва ўрочышчы Трыслівец. Выявіў у 1927 Палікарповіч, абследавалі ў 1962 Арцёменка, у 1975—76 Калечыц. Раскопкі не праводзіліся.

Паселішча-10 каменнага веку. За 1,5 км на ПдЗ ад вёскі, ва ўрочышчы Белая Гара. Выявіла і абследавала ў 1980 Калечыц. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* 479. *А. Г. Калечыц.*

**СТРЫЖАВА,** паселішча каля в. Стрыжава Бешанковіцкага р-на. За 1 км на ПдЗ ад вёскі, на мысе паўвострава Гарадзішча, які амываецца воз. Стрыжаўскае і р. Свячанка. Пл. 20×30 м. Культурны пласт 40 см. У 1973 Г. В. Штыхаў даследаваў 24 м². Знойдзены фрагменты ляпнога посуду 2-й пал. 1-га тысячагоддзя н. э., ганчарны посуд і фрагменты кафлі 17 ст. На другім мысе паўвострава курганападобны насып выш. 2,5 м, дыям. 18 м. Меркаванне пра тое, што тут у 12 ст. знаходзіўся горад *Стрэжаў*, не пацвердзілася.

**СТРЭЖАЎ,** старажытны горад Полацкай зямлі. Упершыню ўпамінаецца ў летапісах пад 1127—28 у сувязі з паходам кааліцыі пaўд.-рус. князёў на Полацкую зямлю: «... а Всеволоду Олговичю повеле ити с своею братею на Стрежев к Борисову». Іпацьеўскі летапіс называе яшчэ раз гэты горад пад 1159: «Рогволод... а Всеволоду да Стрежев». С. да сёння не лакалізаваны. Адны даследчыкі атаясамлівалі яго з в. Стрыжава Бешанковіцкага р-на: за 1 км на ПдЗ ад вёскі на паўвостраве Гарадзішча (даўж. да 800 м), на якім ёсць курган выш. 2,5 м, дыям. 18 м. Аднак рэшткі ўмацаванага паселішча часоў Кіеўскай Русі тут не выяўлены. Другія шукалі С. на месцы сучаснага г. п. Стрэшын Жлобінскага р-на. У ім даследаваны 2 археал. помнікі 12 ст. Але гэты населены пункт размешчаны далёка ад паўд. мяжы Полацкай зямлі, што ставіць пад сумненне існаванне тут летапіснага С.

*Літ.:* 46, 923, 924, 1346. *Г. М. Семянчук.*

**СТРЭМЯ,** прыстасаванне для ўпору і падтрымкі ног конніка. Прататыпы С. са скуры, вяроўкі, інш. матэрыялаў з'явіліся ў 3—4 ст. З 4—5 ст. ва Усх. Азіі выкарыстоўвалі драўляныя канструкцыі С., якія праз цюркаў трапілі ў Еўропу, адкуль іх, верагодна, запазычылі славяне. У слав. старажытнасцях найб. раннімі лічацца жалезныя С. 9 ст. З 10 ст. іх шырока выкарыстоўвалі на ўсёй тэр. Беларусі. Па форме дужак (круглыя, авальныя, арачныя) і падножак (паўкруглыя, выгнутыя, простыя), па памерах адтуліны для путлішча сярэдневяковыя С. падзяляюцца на кольцападобныя і авальныя; з 12 ст. пашыраны арачныя формы з простай падножкай, якімі карысталіся цяжкаўзброеныя дружыннікі. У 14—15 ст. вядомы трапецападобныя С. рыцарскага тыпу. З пераходам на цвёрдаабцасавы абутак у 16 ст. круглаватыя канструкцыі выйшлі з ужытку. У 17 ст. на Беларусі былі папулярныя турэцкія арнаментаваныя С. з шырокай падножкай, часам на даўжыню падэшвы. Раннесярэдневяковыя С. знойдзены ў Браславе, Навагрудку (інкруставаныя каляровым металам), Брэсце, на гарадзішчы *Маскавічы*, у Мінску, больш позняя — у Віцебску, Дрысвятах, Крычаве, Мсціславе, Гродне, Мінску.

*Літ.:* 532, 1027, 1033, 1428. *Г. М. Сагановіч.*

**СТРЭШЫН,** гарадскі пасёлак у Жлобінскім р-не. На правым беразе Дняпра, за 25 км на Пд ад Жлобіна, на аўтамагістралі Жлобін—Рэчыца. Прыстань на Дняпры.

Гарадзішча старaж. С. размешчана на паўд.-ўсх. ускраіне пасёлка, на мысе правага берага Дняпра. Пляцоўка няправільнай формы, выцягнута ўздоўж ракі. Даследаваў 100 м² у 1966 Э. М. Загарульскі. Культурны пласт 1,6 м. Знойдзены сланцавыя праслiцы, шкляныя бранзалеты і інш. Гарадзішча мела магутныя земляныя ўмацаванні (не захаваліся). Археал. матэрыялы сведчаць, што С. узнік у 12 ст. як невялікі феад. замак (гл. *Стрэшынскі замак*), быў абкружаны валам шыр. 10—12 м і ровам. Побач з замкам узнікла неўмацаванае паселішча. Некаторыя даследчыкі атаясамліваюць С. з старaж. горадам Стрэжавам, які ўпамінаецца ў Лаўрэнцьеўскім і Іпацьеўскім летапісах пад 1127/28 і 1159.

Паводле пісьмовых крыніц вядомы з 2-й пал. 14 ст. У «Спісе рускіх гарадоў далёкіх і блізкіх» С. упамінаецца сярод гарадоў Кіеўскай Русі разам з Рагачовам і Любечам. У 1399 называецца ў дарчай грамаце вял. кн. Вітаўта, належаў віленскім канонікам. У 16—17 ст. неаднойчы быў разбураны. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Расійскай імперыі.

*Літ.:* 46, 1181, 1340. *Э. М. Загарульскі.*

**СТРЭШЫНСКІ ЗАМАК.** Існаваў у 12—18 ст. у г. п. *Стрэшын* Жлобінскага р-на. Упершыню Стрэшын згадваецца ў «Спісе рускіх гарадоў далёкіх і блізкіх» (14 ст.). Аднак археал. даследаванні сведчаць пра існаванне тут ужо ў 12 ст. драўлянага замка, пад аховай якога развівалася неўмацаванае паселішча.

Адзін з самых ранніх інвентароў горада за 1579, складзены ў перыяд Лівонскай вайны 1558—83, дае ўяўленне пра невял. мястэчка з 30 дамоў і драўляны замак, у якім размяшчаўся нешматлікі гарнізон «жолнеров». У 1587 у арсенале С. з. меліся «дело, гаковницы, рушницы, порохи, кули». У інвентары за 1597 больш падрабязна сказана пра запасы пораху («фунтов 100 по 56 грошей»), салетры («фунтов 50»), серы, волава («каменя 4»), ядраў і куль. Паўстанні і войны канца 16 — пач. 17 ст. паўплывалі на расшырэнне замкавага арсенала, дзе тады налічвалася 4 гарматы, 10 гакаўніц, 35 ручніц, запасы пораху, серы, салетры, волава, гарматныя ядры і інш. амуніцыя. На ўсё гэта часта квапіліся (і небеспаспяхова) атрады «жолнеров», якія праходзілі праз Стрэшын. У гэты час С. з. адбудаваны, папоўніўся яго арсенал. Сярод ручной агнястрэльнай зброі, акрамя гакаўніц, у інвентары за 1615 упамінаюцца 34 «губчастыя ручницы». Перад замкам пабудаваны «двор» з 2 «стайнями», 2 «пивницами», кароўнікамі. Паводле інвентара Стрэшына ад 16.1.1628, тут адзначаны замак на гары над Дняпром і на Стрэшынцы, якая ў яго ўпадае, і «перекоп от места, через который мост до замку». Па ім траплялі ў «вежу воротную о трех помостах с бланкованьем» — 4-ярусную замкавую браму з кругавой галерэяй на сценнага бою. Быў і традыцыйны ўзвод, які падымаўся 2 «ланцугами» над дубовымі апорамі-палямі. Край яго быў сцягнуты дзвюма жал. палосамі. Для фіксацыі моста ў паднятым стане меліся 2 «жалезных чопа» — асобыя ланцугі. Двайныя створкі варот з бpамкай-«форткай» былі забяспечаны складанай сістэмай жал. і драўляных запораў. На 1-м ярусе брамы злева размяшчалася турма, на 2-м — «светлица великая», на 3-м — «свиран», адкуль па «усходу» траплялі наверх, «на бланкованье». 4-ы ярус меў 4 акны, 2 з якіх былі закрыты жал. кратамі. Справа ад «светлицы» ішлі «тремя рядами одна от другой» сельскія гародні з «бланкованьем» на іх. У адной з гародняў захоўваліся замкавыя «порохи и кули», у 2-й, дзе раней размяшчалася замкавая «каплица», падданыя складвалі свой хатні скарб. Гародні мелі дзверы на завесах або «бегунах» і запоры. У сістэму ўмацаванняў уваходзілі яшчэ 4 вежы, якія разам з гароднямі былі «по самое бланкованье глиною облеплены». У інвентары адзначаецца, што «в року 1626 как замок, так и вежи 4, бланкованье и усходы (лесвіцы на гародні) наново драницами побиты». На замкавым «детинце» месціліся жылыя і гасп. пабудовы, у т. л. «піўніца», пякарня і дом, у якім жыў гараднічы. Сярод узбраення С. з. называюцца 4 гарматы, 2 з якіх былі «ў ложах ка-

ваных на колах абадзястых не каваных» і 2 без ложаў ляжалі «на вежы ў вокнах» (відаць, гэта «вежа варотвая»), 50 мушкетаў, 10 гакаўніц, 17 жалезных і 24 алавяныя гарматныя ядры, 500 гакаўнічных і 600 мушкетных куль, 88 фунтаў мушкетнага і 24 фунты гарматнага недраблёнага пораху, 29 фунтаў волава, 62 фунты салетры, гакаўнічныя і мушкетныя формы. Усім гэтым загадваў замкавы «пушкар Марцін». Да замка і мястэчка прымыкаў «двор», абнесены высокай агароджай з тоўстых хваёвых бярвён, а з боку Дняпра — дубовымі каламі. Звесткі пра ўмацаванні самога Стрэшына ў дакументах адсутнічаюць. Інвентары С. з. за 1632 і 1635 даюць уяўленне пра стабільнасць яго планіроўкі і канструкцый



Ручная **ступа**.

фартыфікацыйных збудаванняў, наменклатуру зброі ў цэйхгаўзе. У антыфеадальную (1648—49) і рус.-польскую (1654—67) войны Стрэшын знаходзіўся ў цэнтры ваенных падзей. У ліпені 1654 казакі І. Залатарэнкі ўзялі горад штурмам, а замак спалілі. Пасля вайны С. з. быў аднаўлены, аднак ранейшай магутнасці ўжо не меў і ў такім стане праіснаваў да 1793. *М. А. Ткачоў.*

**СТУ́ПА**, прылада для перапрацоўкі зерня, ільнянога семя, канапель і інш. На тэр. Беларусі вядома з пач. 2-га тысячагоддзя н. э. Паводле спосабу работы і канструкцыі падзяляюцца на ручныя і нажныя. Ручную С. выраблялі з суцэльнага кавалка даволі тоўстага ствала дрэва цвёрдай пароды (выш. не больш за 1 м), у якім рабілі шырокае, конусападобнае паглыбленне. У С. засыпалі зерне і таўклі пры дапамозе даволі важкага таўкача даўж. да 80 см, які ў цэнтры меў выемку для рук. Працаваць на ручной С. можна было аднаму або 2 чалавекам.

У Мінску ў пласце 12 ст. знойдзена ручная С. і таўкач для працы аднаго чалавека, у Полацку — 2 таўкачы для працы двух чалавек (12 ст.) і інш. Знаходкі мінскай ручной С. даюць падставы сцвярджаць, што стараж. С. адрозніваліся ад больш позніх толькі меншымі памерамі. Нажныя С. знойдзены ў Мінску. Адна з іх разам з таўкачом датуецца 13 ст., добра захавалася. Яе аснова зроблена з тоўстага апрацаванага дрэва, даўж. 1,2 м, шыр. 0,5 м. На адным канцы плахі зроблена конусападобнае паглыбленне даўж. 22 см, якое абгароджана невысокім борцікам, што засцерагала зерне ад рассыпання. На процілеглым канцы С. ўмацаваны прамавугольны рычаг з таўкачом, які прыводзіўся ў рух нагамі чалавека. У Брэсце ў пластах 13—14 ст. знойдзена 5 нажных С. (ад адной цалкам захавалася плаха з паглыбленнем, 13 ст.), а таксама 12 дубовых таўкачоў 11—14 ст. даўж. 40—52 см (даўж. рабочай часткі 25—30 см), што дае магчымасць меркаваць аб пашырэнні нажных С. з 11 ст. Нажныя С. вядомы ў цэнтры і на ПдЗ Беларусі. Ёсць меркаванне, што паходзяць яны з тэр. Украіны, дзе да 19—20 ст. іх выраблялі не толькі з дрэва, але і з каменю. На ПдЗ Беларусі драўляныя нажныя С. існавалі да сярэдзіны 1950-х г., але канструкцыя іх істотна змянілася: для засыпання зерня выраблялі падобную на ручную, але карацейшую С. і прымацоўвалі да яе з 2 бакоў драўляныя брусы, якія з процілеглага боку злучалі з 2 цурбанамі, што заканчваліся 2 сукамі. Паміж гэтымі сукамі замацоўвалі верхні брус, у які на ўзроўні С. ўстаўлялі таўкач. Такія С. зафіксаваны этнаграфічнымі экспедыцыямі ў Маларыцкім і Ельскім р-нах. *Т. М. Каробушкіна.*

**СТШЫЖО́ЎСКАЯ КУЛЬТУ́РА**, археал. культура плямён, якія ў 1800—1500 г. да н. э. жылі ва ўсх. частцы Люблінскага ваяводства і на ПнЗ Валыні (Украіна); адна са *шнуравой керамікі культур.* Вылучыў у 1959 А. Гардаўскі. Назву атрымала ад паселішча каля в. Стшыжаў Люблінскага ваяводства (Польшча). Асн. занятак насельніцтва — земляробства і жывёлагадоўля. Плямёны жылі на паселішчах, размешчаных на мысах, паўд. схілах берагоў рэк, узвышшах сярод балот. Жытлы — авальныя няправільнай формы паўзямлянкі (каля 2,25×4,15 м і 1,1×1,5 м) з уступамі-ляжанкамі ўздоўж сцен. Сцены жытлаў рабіліся, відаць, з 2 радоў слупоў, прастора паміж якімі запаўнялася травой, саломай, лісцем.

Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў авальных і прамавугольных грунтавых і падкурганных ямах. У жаночых падкурганных пахаваннях нябожчыкі ў скурчаным становішчы, у мужчынскіх — яшчэ і моцна абпаленыя. Посуд (амфары, гаршчкі, кубкі, міскі) вырабляўся з гліны з дамешкамі пераважна шамоту. Пры вырабе яго загладжвалі пучком травы ці саломы, арнаментавалі адбіткамі шнура, наколамі, нарэзкамі, валікамі, выступамі. З крэменю рабілі лінзападобныя і авальныя ў сячэнні прышліфаваныя сякеры з вузкім абушком, шырокія нажападобныя сярпы, наканечнікі коп'яў з тронкамі і сэрцападобныя, з каме-



Нажная **ступа** з Мінска. 13 ст.

ню — зерняцёркі, шліфаваныя пліткі, свідраваныя сякеры з апушчаным уніз лязом, з бронзы — сякеры, падвескі, бранзалеты, скроневыя кольцы, завушніцы, дыядэмы, пранізкі; з косці — праколкі, іголкі, шпількі з адтулінамі на канцы, пацеркі з нарэзкамі. Знойдзены 2 скарбы (бронзавых вырабаў і фаянсавых пацерак егіпецкага тыпу), падвескі з іклаў кабана і ракавін, касцяныя трубкі (відаць, музычныя інструменты), бляхі-псаліі. Выяўлены таксама гасп. ямы і майстэрні па вырабу крамянёвых прылад.

Даследчыкі адзначаюць падабенства паміж помнікамі С. к. і Бел. Палесся. Ю. У. Кухарэнка нават пашырае межы С. к. на ўвесь басейн Верхняй Прыпяці, уключаючы і р. Ясельда. Паводле фармальна-тыпалагічнага аналізу зах.-палескіх знаходак Беларусі (перш за ўсё керамікі, крамянёвых вырабаў) блізкасць паміж помнікамі С. к. і *шнуравой керамікі Палесся культуры* праяўляецца ў выкарыстанні дамешкаў шамоту ў гліну, загладжванні паверхні посуду пучком травы або саломы, характары арнаментацыі, распаўсюджанасці шырокіх нажападобных сярпоў, наканечнікаў коп'яў з тронкамі і інш. Некаторыя характэрныя рысы С. к. наглядаюцца і на цэнтральна-палескіх паселішчах *сярэднедняпроўскай культуры.* Гэта дазваляе меркаваць пра існаванне пэўных традыцыйных устойлівых сувязей валынскага насельніцтва з яго паўн. суседзямі.

*Літ.:* 87, 454, 1047, 1384, 1429.

*М. М. Крывальцэвіч.*

**СТЫЛО́**, стыль (лац. stilus, stylus ад грэч. stýlos палка, палачка),

прылада для пісьма ў старажытнасці і сярэднявеччы. Гл. арт. *Пісала.*

**СУАДНО́СІНЫ ВО́СЕЙ** выяў манеты, вугал паміж восямі выяў *аверса* і *рэверса*. Вось выявы — вектарная вертыкаль праз яе цэнтр, які звычайна супадае з цэнтрам манеты. Прынята падаваць С. в. па гадзіннікавым цыферблаце (адна пазіцыя 30°). Менш дакладна (прыблізна 45°) перадаюцца С. в. з дапамогай стрэлкі, якая паказвае адхіленне адной з вектарных вертыкалей адносна другой, арыентаванай у пазіцыі 12 (зараз такое вызначэнне С. в. не выкарыстоўваецца). Вертыкальныя С. в. (звычайна ў пазіцыях 6 ці 12) у пэўнай групы манет сведчаць пра выкарыстанне правільна замацаваных *штэмпеляў* (гэты прыём вядомы ўжо з 4 ст. да н. э. ў манетнай справе стран Усх. Міжземнамор'я) ці вальцоўкі і штампоўкі пад прэсам (гл. ў арт. *Тэхніка манетнай справы*). С. в.— індывідуальная характарыстыка манеты.

*І. І. Сінчук.*

| Пазіцыі | Бітыя медныя соліды Рэчы Паспалітай 1660—66 | Бітыя тымфы Рэчы Паспалітай 1663—66 | Вальцаваныя тынфы Расійскай імперыі 1707—09 |
|---|---|---|---|
| 1.00 | 38 | 10 | 20 |
| 2.00 | 51 | 15 | 2 |
| 3.00 | 22 | 5 | 0 |
| 4.00 | 41 | 11 | 0 |
| 5.00 | 48 | 14 | 0 |
| 6.00 | 58 | 8 | 0 |
| 7.00 | 47 | 16 | 0 |
| 8.00 | 36 | 10 | 0 |
| 9.00 | 40 | 9 | 0 |
| 10.00 | 52 | 23 | 0 |
| 11.00 | 49 | 15 | 9 |
| 12.00 | 54 | 10 | 38 |
| Усяго манет | 536 | 146 | 69 |

**Суадносіны восей выяў манет.**




**Вызначэнне суадносін восей.** Рэч Паспалітая, каронны талер Яна Казіміра 1649 з суадносінамі восей 2.

**СУ́БАЎШЧЫНА,** група археал. помнікаў каля в. Субаўшчына Полацкага р-на.

Курганны могільнік. За 2 км на ПнУ ад вёскі, на левым беразе р. Нача побач з сучаснымі могілкамі, у лесе. 8 насыпаў дыям. 7—9 м, выш. 0,6—1 м. Адзін доўгі курган памерам 40×4×1,1 м. Адкрыў у 1984 Э. М. Зайкоўскі, даследавала 4 курганы ў 1986—87 Л. У. Дучыц. Пахавальны абрад — трупаспаленне на грунце і ў яме. У адным выпадку ў цэнтры кургана на мацерыку выяўлена пасудзіна, пастаўленая дагары нагамі. Знойдзены трапецападобнае прасліца, кавалкі вітога бронзавага дроту, бочкападобная пацерка. Датуецца 7—8 ст. У доўгім кургане, які даследаваў В. І. Шадыра, выяўлена больш за 10 пахаванняў. Пахавальны абрад — трупаспаленне на мацерыку і ў насыпе. Выяўлены рэшткі рытуальных агнішчаў на мацерыку і ў раўках, якія абкружалі насып. Пахавальныя урны маюць выгляд слабапрафіляваных гліняных гаршкоў выш. 20—35 см з усечаным тулавам, круглаватымі плечукамі, з адагнутым ці прамым венчыкам. Першапачаткова нябожчыкаў спальвалі на месцы кургана, а пазней — у рытуальных раўках вакол насыпу. Пахавальны інвентар не захаваўся. Датуецца 6—7 ст. н. э.

Селішча. Ва ўрочышчы Будзькаўшчына, на невысокай выспе, сярод поля. Дыям. каля 35 м. Выявіў у 1984 і даследаваў 16 м² у 1985 Э. М. Зайкоўскі. Культурны пласт 0,15—0,4 м. Выяўлены фрагмент ляпной пасудзіны позняга этапу *днепра-дзвінскай культуры*, рэшткі керамікі перыяду Полацкага княства, фрагмент зялёнай паліванай кафлі з арнаментам, крэмень са слядамі апрацоўкі, лязо дзяржаннявага нажа (канец 14—15 ст.), фрагменты керамікі 15—16 ст.

*Л. У. Дучыц, В. І. Шадыра, Э. М. Зайкоўскі.*

**СУБСТРА́Т** (лац. substratum падсцілка), тое, што ляжыць у аснове якіх-небудзь утварэнняў, з'яўляецца асновай чаго-небудзь. С. моўны — элементы мовы папярэдняга насельніцтва пэўнай тэрыторыі, якія захаваліся ў мове прышэльцаў. На тэр. Беларусі значная колькасць назваў рэк і азёр захавалі карані і канчаткі слоў, характэрных для балцкіх (літоўскай, латышскай і інш.) моў, г. зн. маюць балцкае паходжанне. Гэта назвы рэк Волчас, Гайна, Грыўда, Друць, Лучоса, Мытва, Нача, Палата, Сэрвач, Ула, Усяжа, Эса і інш., назвы азёр Дрывяты, Дрысвяты, Муйса, Нарач, Снуды і інш. Найбольш густа рэкі з назвамі балцкага паходжання размешчаны ў басейнах рэк Бярэзіна (Мена, Клява, Ольса, Сергуч, Уса) і Сож (Раста і інш.). Даныя *гідраніміі* паслужылі адным з аргументаў для высновы, што на тэр. Беларусі прыкладна да сярэдзіны 1-га тысячагоддзя н. э. і, магчыма, пазней жылі балцкія плямёны (гл. *Балты*), ад якіх славяне запазычылі назвы рэк, азёр, населеных пунктаў і інш. (гл. таксама *Тапанімія*). У археалогіі тэрмін С. выкарыстоўваецца пры разглядзе пытанняў пра перадумовы фарміравання бел. народнасці. Археал. даследаваннямі пацверджана, што тэрыторыя з пераважнай балцкай гідраніміяй з'яўлялася арэалам пашырэння днепра-дзвінскай, штрыхаванай керамікі і банцараўскай культур (гл. адпаведныя артыкулы), дзе пазней сфарміравалася бел. народнасць.

*Літ.:* 370, 1063, 1208. *Г. В. Штыхаў.*

**СУ́ЛІЦА,** кароткая дрэўкавая зброя для кідання з каменным, касцяным або металічным наканечнікам; яе памер сярэдні паміж *стралой* і дзідай. Выкарыстоўвалася з часоў каменнага веку. На ўсх.-слав. землях вядома з ранняга сярэднявечча. Даўж. дрэўка С. 100—150 см (у дзіды 180—210 см), жал. наканечнік (даўж. 15—20 см, вага 60—100 г) меў звычайную для дзідаў форму. З дрэўкам яго злучалі ўтулкай або тронкамі, канец якіх загінаўся для лепшага мацавання. На Беларусі ў 12—18 ст. С. ўжывалі коннікі і пяхота. Наканечнікі С. знойдзены пры раскопках у Дрысвятах, Крычаве, Браславе і інш.

*Літ.:* 527, 762, 1457.

*Г. М. Сагановіч.*

**СУЛЯ́ЦІЧЫ,** курганны могільнік каля в. Суляцічы Навагрудскага р-на. Мясц. назвы Грудак, Гарэшнік. На пагорку левага берага р. Валоўка паміж в. Суляцічы і Іпась. Захавалася 40 насыпаў дыям. 3—9 м, выш. 0,3—1,5 м. Найбольшыя курганы размешчаны ў цэнтры могільніка. Вакол некаторых ёсць невял. паглыбленні. Выявіла і даследавала 3 курганы ў 1956 Ф. Д. Гурэвіч (на той час існавала 80 насыпаў). У 2 курганах пахаванні па абраду трупаспалення на месцы, 1 без па-

хавання. У 1971 К. В. Паўлава даследавала 20 курганоў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне. У 5 курганах было па 2 пахаванні. 17 нябожчыкаў ляжалі ў падкурганных ямах глыб. 0,3—0,9 м, 8 — у аснове насыпаў. Палажэнне нябожчыкаў выцягнутае, на спіне, галавой пераважна на З, рукі выцягнуты ўздоўж тулава або складзены на жываце. Сляды дамавін не выяўлены.

Пахавальны інвентар нешматлікі і аднастайны: фрагменты гліняных гаршкоў, сярэбраныя і алавяныя скроневыя кольцы (паўтараабаротныя), бронзавыя пярсцёнкі (драцяныя і рубчастыя), бронзавыя званочкі.

Могільнік датуецца канцом 11—13 ст., належаў дрыгавіцкаму, магчыма, мяшанаму дрыгавіцка-валынскаму насельніцтву.

*Літ.:* 272, 852. *Я. Г. Звяруга.*

**СУПРУ́Н** Васіль Рыгоравіч (н. 10.3.1926, в. Глоўсевічы Слонімскага р-на), беларускі краязнавец. Скончыў Мінскі педагагічны ін-т (1969). З 1944 настаўнік, дырэктар школы. У 1947—56 рэпрэсіраваны, адбываў тэрмін у канцлагерах Інты і Варкуты, пасля апраўдання з 1957 працаваў будаўніком, у 1968 супрацоўнік Брэсцкага абл. краязнаўчага музея. У 1963—70 даследаваў археал. помнікі ў басейнах рэк Шчары, Зальвянкі, Ясельды, Мухаўца, Гарыні. Выявіў, сабраў пад'ёмны матэрыял і апісаў каля 200 стараж. стаянак, селішчаў, гарадзішчаў, курганных і бескурганных могільнікаў у Гродзенскай і Брэсцкай абласцях. Разглядаў этнічныя пытанні і праблемы гісторыі архітэктуры сярэдневяковай Беларусі. Выступае ў перыядычным друку з вершамі і ўспамінамі.

*Тв.:* Памятники каменного века и эпохи бронзы в бассейне среднего течения р. Щары (По материалам разведки 1963—1965 гг.) // Древности Белоруссии. Мн., 1966; Поселение Русаково-II (по материалам раскопок 1966 года) // Вопросы истории. Мн., 1969; Гарадзішчы каля Слоніма // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1976. № 4; З археалогіі Слонімшчыны // Тамсама. 1985. № 1; Загадкі Слонімскіх замкаў // Тамсама. 1986. № 2; Штрыхаваная кераміка // Тамсама. 1989. № 2.

*В. С. Вяргей.*

**СУ́РАЖ**, гарадскі пасёлак у Віцебскім р-не, на р. Зах. Дзвіна пры ўпадзенні ў яе р. Каспля. За 43 км на ПнУ ад Віцебска, на аўтадарозе Віцебск — Веліж.

Стараж. паселішча С. размешчана ў сутоках рэк Сураж з Каспляй і Касплі з Зах. Дзвіной. Назву атрымала ад р. Сураж — прытока Касплі. Засяленне тэр. пасёлка пачалося ў 7—8 ст. з мысавага ўчастка ў сутоках Касплі і Зах. Дзвіны. Пляцоўка паселішча мела форму трохвугольніка (60×40×60 м) і была аддзелена ровам ад астатняга плато. Абследаваў у 1972 Г. В. Штыхаў, раскопкі праводзіў у 1977 М. А. Ткачоў. Ускрыта 260 м². Культурны пласт ад 0,1 да 1,1 м (папсаваны пахаваннямі Вял. Айчыннай вайны, разворваецца).

Знойдзена ляпная кераміка 7—8 ст., рэшткі гаршкоў 11—17 ст., жал. нажы і замкі 14—17 ст., падкоўкі пад абцас 16—17 ст., цвікі, абломкі завесы, жал. гарматнае ядро, гліняныя і шыферныя праслiцы, паліваная і непаліваная кераміка (гаршкі, каробчатая кафля і інш.). Адсутнасць шкляных бранзалетаў сведчыць, што ў 11—13 ст. С. з'яўляўся паселішчам негарадскога тыпу і заставаўся такім да 1563, калі быў узведзены *Суражскі замак* і вырас горад С. У 15—16 ст. землі наваколля, вёскі Сураж і Дрэчы Лукі належалі князям Друцкім-Сакалінскім, потым Сапегам. Пасля 1563 пад сценамі замка пачало



Пярсцёнкі (1, 2), скроневыя кольцы (3—10), гузічкі (11—14) з курганнага могільніка **Суляцічы.**

развівацца «место Сураж», якое не мела ўласнай сістэмы ўмацаванняў.

У выніку шурфоўкі на тэр. сярэдневяковага С. ў радыусе 150 м ад замка выяўлены культурныя напластаванні да 0,8 м, у інш. месцах — 0,2—0,4 м. У культурным пласце С. прасочваюцца сляды не менш як 3 пажараў 17—18 ст.

Знойдзены абломкі паліванага і непаліванага посуду, кафлі 16—18 ст. З 1590 С.— цэнтр староства. У час рус.-польскай вайны 1654—67 узяты (верасень 1656) рус. войскамі, вернуты ВКЛ паводле Андрусаўскага перамір'я 1667. У выніку 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) у складзе Расійскай імперыі.

*М. А. Ткачоў.*

**СУ́РАЖСКІ ЗА́МАК.** Існаваў у 16—18 ст. на месцы стараж. паселішча Сураж (цяпер гар. пасёлак у Віцебскім р-не). Узведзены ў сутоках рэк Каспля і Зах. Дзвіна ў 1563 паводле загаду вял. кн. ВКЛ і караля Польшчы Жыгімонта II Аўгуста. Будаўніцтвам С. з. кіраваў віцебскі ваявода С. Забаражанскі. Гал. прызначэнне С. з. заключалася ў абароне паўн.-ўсх. мяжы Віцебскага ваяводства, супрацьстаянні Усвяцкаму замку і кантролі за рэкамі Каспля і Зах. Дзвіна. Замак быў пабудаваны з дрэва і абнесены земляным валам, відаць, толькі з У і Пн, а з боку Касплі бараніўся амаль вертыкальным берагавым абрывам і шырокай тут ракой. Акрамя таго, С. з. меў драўляныя ўмацаванні — гародні. Цяпер замкавы вал знівеліраваны. Прарэзка яго (1977, М. А. Ткачоў), а таксама вывучэнне абарончага рова паказалі, што вал і роў мелі шыр. 10—12 м. Вал быў насыпаны з грунту, вынятага з рова, і дасягаў выш. 4 м. Аснова вала з боку падворка была выбрукавана, ні з яго знешняга схілу забраны сценкай з плах, замацаваных слупамі. Гэта прадухіляла спаўзанне насыпу ў роў, сценкі якога былі ўмацаваны касаўкапанымі бярвёнамі таўшч. 12—15 см.

Інвентары і апісанні С. з. 16 ст. не захаваліся. Аднак на карце Полацкага княства С. Пахалавіцкага (1579), а таксама картах М. Струбіча (1579) і Т. Макоўскага (1603) замак паказаны з адной 2-яруснай вежай. На ўзбраенні яго гарнізона былі гарматы і гакаўніцы. Ваенная амуніцыя даслана сюды яшчэ ў 1562 у час будаўніцтва. У ходзе ваенных падзей 17—18 ст. Сураж і замак зведалі неаднаразовыя разбурэнні. У 1616 і 1633 яны былі спалены рус. войскамі, але праз некаторы час зноў адбудаваны. У рус.-польскую вайну 1654—67 царскія войскі 20.8.1656 сканцэнтраваліся насупраць С. з. і «тайника от реки от Двины». Пасля таго, як у абаронцаў «отняли воду», пачаліся артылерыйскія абстрэлы, якімі ўрэшце рэшт абложаных «на городе з верхних боев и с средних выбили вон и теснение им учинили великое, а утеснив, зговорили» спыніць супраціўленне. Здача адбылася 2 верасня. Пераможцам дасталіся 3 сцягі, 4 палкавыя медныя гарматы на калёсах калібрам 0,5—3,5 фунтаў, 26 зацінных пішчаляў, 8 фунтаў мушкетных куль, 355 ядраў вагой 2 фунты кожнае, 58 жалезных і 12 свінцовых ядраў, 1104 ядры для зацінных пішчаляў, 2 пратазаны, свінец, порах, а таксама «2 чепи подъемные мостовые». Пераважная большасць суражскіх «сидельцев» былі ўзброены ў асноўным бердышамі. Прыведзеныя вышэй звесткі сведчаць, што абарончыя сцены С. з. мелі 2 ярусы бою. Тут жа знаходзіўся тайнік, які выводзіў да вады, а перад уязной брамай — пад'ёмны мост на «чепях». Колькасць баявых вежаў невядомая. Толькі з прыступнага боку іх было, верагодна, акрамя вежы-брамы, яшчэ як мінімум 2. Паводле Андрусаўскага перамір'я 1667 Сураж з сакавіка зноў у складзе ВКЛ. Замак быў адноўлены. На «Чертеже» (1701), зробленым стольнікам Пятра I М. Цызыровым, зафіксаваны абарончыя сцены С. з. без вежаў і 2 масты цераз роў. Акрамя таго, замак паказаны ў плане як круглы. Прычым абарончы роў, паводле «Чертежа», праходзіў нават на стрэлцы мыса, што выклікае сумненні. Відаць, стольнік складаў план-схему замка без яго дэталёвага абследавання. Пасля 1765 С. з. меў вал шыр. каля 11,5 м і «паркан-острокол». Цераз абарончы роў да драўлянай замкавай брамы падводзіў мост. На самым рагу замчышча, на стрэлцы мыса, была жылая пабудова.

Перад замкам стаяла царква. Пасля 1772 С. з. перастаў існаваць.

*Літ.*: 220, 1198. *М. А. Ткачоў.*

**СУТАРЭННЕ,** памяшканне пад першым паверхам будынка, ніжэй узроўню зямлі. На Беларусі вядомы з 12 ст. (гл. ў арт. *Крыпта*). У 14—17 ст. С. мелі мураваныя замкі, некаторыя храмы. З 17 ст. рабіліся і ў жылых мураваных будынках, «каменіцах». У іх захоўвалі розныя тавары, будаўнічы, вайсковы і інш. рыштунак, выкарыстоўвалі як турму.

**СУЧАЎСКІ МАНЕТНЫ ДВОР.** Дзейнічаў у г. Сучава (Малдова), магчыма, у замку, пабудаваным у 2-й пал. 14 ст. З перапынкамі чаканіў манеты малдаўскіх гаспадароў, якія пераймалі часам тыпы пашыраных замежных манет (вядомы забароненыя да прыёму ў 1526 падробкі паўгрошаў ВКЛ Жыгімонта І Старога). З часоў панавання Дабіжа Водэ [1661—65] да часу размяшчэння ў Сучаве ў 1673 польскага гарнізона вядомы як *манетны двор фальшываманетчыкаў.*

Падрабляў вальцоўкай соліды нізкапробнага серабра, якіх, магчыма, не хапала ў грашовым абарачэнні Рэчы Паспалітай сярэдзіны 17 ст. Вядомы медныя соліды Рэчы Паспалітай праўлення Яна ІІ Казіміра Вазы, Прускага герцагства Фрыдрыха Вільгельма, прыбалтыйскіх уладанняў Швецыі часоў Густава ІІ Адольфа — Карла XI. Магчыма, пры гаспадару Георгію Дуцэ [1668—72] двор выпускаў плакіраваныя падробкі талераў Іспанскіх Нідэрландаў з імёнамі апошніх каралёў Філіпа IV і Карла ІІ. Характэрныя асаблівасці сучаўскіх падробак: памылкі ў датах, дзярж. неадпаведнасць *аверсаў* і *рэверсаў.* У канцы 19 — пач. 20 ст. ў час раскопак Сучаўскага замка аўстрыйскі археолаг К. А. Рамштофер выявіў каля 2000 экз. фальшывых манет, паўфабрыкаты (медныя палосы з манетнымі відарысамі), больш за 160 разнавіднасцей 500 штэмпеляў фальшывых манет толькі прыбалтыйскіх уладанняў Швецыі.

*Літ.*: 1562, 1706, 1717. *І. І. Сінчук.*

**СУША,** крэпасць 16 ст. ў в. Суша Лепельскага р-на. Размяшчалася на паўвостраве паміж азёрамі Астраўкі і Цеменіца, злучанымі вузкай пратокай. Пабудавана ў жніўні 1566 рус. войскамі (стараж. назва Кап'ё) як адзін з перадавых апорных пунктаў рус. арміі ў час Лівонскай вайны 1558—83. У 1567 і 1579 пад сценамі ўмацаванняў адбыліся жорсткія баі паміж войскамі Русі і ВКЛ. У канцы 1579 умацаванні разбураны. Захаваліся рэшткі абарончых валоў, якія абследавалі ў 1956 М. П. Рабіновіч, у 1969 М. А. Ткачоў.

*Літ.*: 157, 201. *М. А. Ткачоў.*

**СФРАГІСТЫКА** (грэч. sphragis пячатка), сігілаграфія, дапаможная гіст. дысцыпліна, якая вывучае *пячаткі* і гісторыю іх існавання. С. разглядае пячаткі як самастойныя помнікі гісторыі і адзнакі сапраўднасці дакументаў, якія яны суправаджаюць. Асновы С. закладзены ў 17 ст. маўрыстамі — збіральнікамі і выдаўцамі сярэдневяковых рукапісаў у Францыі. У Расіі развівалася з 18 ст. Бел. пячаткі ў 19 ст. вывучалі А. Б. Лакіер, К. Э. Напіерскі, К. М. Абаленскі, М. Гумоўскі, У. Сямковіч, сярод даследчыкаў сав. часу М. П. Ліхачоў, В. Л. Янін, Г. В. Штыхаў (пячаткі полацкіх князёў 10—13 ст.), Г. Л. Харашкевіч (пячаткі полацкіх грамат 14—15 ст.), А. К. Цітоў (пячаткі 15—18 ст.). У час археал. раскопак стараж. бел. гарадоў Полацка, Мінска, Гродна, Гомеля і інш. знойдзены віслыя свінцовыя пячаткі і *пломбы* розных тыпаў, якія істотна павялічваюць колькасць крыніц для вывучэння бел. С. На думку Ліхачова, выява конніка на пячатцы полацкага кн. Глеба — прататып «Пагоні». Паводле Харашкевіча, пячаткі полацкіх князёў зніклі ў канцы 14 ст. ў сувязі са стратай Полацкам незалежнасці.

*Літ.*: 685, 848, 1258, 1275, 1347, 1393. *Г. В. Штыхаў.*



Каменная зерняцёрка з гарадзішча **Сцяпанавічы.**



Э. А. **Сымановіч.**

**СЦЮДЗЁНАЯ ГУТА,** курганны могільнік *радзімічаў* каля в. Сцюдзёная Гута Гомельскага р-на. На беразе воз. Стары Сож, ва ўрочышчах Баюры і Дзямідава, у лесе, 60 курганоў. Даследавалі ў 1890 М. М. Філонаў, у 1897 Е. Р. Раманаў (5 насыпаў). Пахавальныя абрады — трупаспаленне і трупапалажэнне. Выяўлены перапаленыя косці чалавека і коней, расплаўленыя бронзавыя вырабы, цуглі.

Знойдзены нож, каса, крэсіва з крэменем, пярсцёнкі, кольцы, паясныя спражкі і кольца, тачыльны камень, сяміпрамянёвыя скроневыя кольцы, пацеркі (пазалочаныя шкляныя, паставыя, яшмавыя, хрусталёвыя), драцяныя падвескі, лунніцы, вітая грыўня, фібула з белага металу, завушніцы з кольцаў, ланцужок, гаршкі, шыферныя праслiцы.

У 1962 Г. Ф. Салаўёва даследавала 2 курганы. Пахавальны абрад — трупапалажэнне. Знойдзены фрагменты гаршкоў. Датуецца 10 — пач. 12 ст.

*Літ.*: 981. *А. А. Макушнікаў.*

**СЦЯПАНАВІЧЫ,** гарадзішча *днепра-дзвінскай культуры* каля в. Сцяпанавічы Гарадоцкага р-на. За 3 км на З ад вёскі, ва ўрочышчы Загорцы, на гары сярод балота (выш. 10—18 м). Пляцоўка амаль круглая, дыям. каля 44 м. Даследавалі ў 1933—34 А. М. Ляўданскі і К. М. Палікарповіч, у 1950 Л. В. Аляксееў, у 1966 К. П. Шут, у 1972 абследаваў Г. В. Штыхаў. Культурны пласт 0,5—1,5 м.

Пры раскопках знойдзены тэкстыльная, гладкасценная, штрыхаваная кераміка, гліняныя праслiцы, вырабы з косці (наканечнікі стрэл, праколкі, шылы), бронзавыя ўпрыгожанні, жал. шлакі, нажы, зерняцёркі, абгарэлае зерне пшаніцы, жал. падковападобная фібула і фрагмент кіепадобнай шпількі, косці свойскай і дзікай жывёлы.

Гарадзішча датуецца 4—6 ст. да н. э.—1—2 ст. н. э. У 5—7 ст. выкарыстоўвалася як сховішча.

*Літ.*: 895. *Г. В. Штыхаў.*

**СЦЯПАНАЎКА,** курганны могільнік каля в. Сцяпанаўка Рэчыцкага р-на. За 1,5 км на У ад вёскі, 70 насыпаў (у двух месцах). У 1890 даследаваў У. З. Завітневіч (22 курганы). У 3 курганах выяўлены пахаванні паводле абраду трупаспалення на гарызонце і ў насыпе, у адным — трупапалажэнне ў яме (глыб. 0,35 м), у астатніх — трупапалажэнне на гарызонце. Шкілеты арыентаваны на З.

Знойдзены шкляныя і сярэбраныя пацеркі, паясныя кольцы, нож, бразготкі, гаршкі, у некаторых пахаваннях — рэшткі дамавін.

*Літ.*: 379. *Г. В. Штыхаў.*

**СЫМАНОВІЧ** Эраст Аляксеевіч (18.3.1919, Ленінград — 19.8.1983), рускі археолаг. Скончыў Ленінградскі ун-т (1942). У 1949—51 навук. супрацоўнік Эрмітажа. З 1952 у Маскве, старшы навук. супрацоўнік Музея выяўленчага мастацтва імя А. С. Пушкіна, з 1956 — Ін-та археалогіі АН СССР. Асн. кірунак навук. дзейнасці — вывучэнне *чарняхоўскай культуры.* Абгрунтоўваў гіпотэзу аб распаўсюджванні хрысціянства сярод насельніцтва чарняхоўскай агульнасці. Адкрыў у Бел. Падняпроўі *калочынскую культуру.* У 1955—60 даследаваў 1793 м²

археал. комплексу гарадзішча і селішча *Калочын.* Адстойваў слав. прыналежнасць носьбітаў адкрытай ім культуры, разглядаў пытанне ўзаемасувязі яе насельніцтва з балцкімі плямёнамі, а таксама з носьбітамі чарняхоўскай і кіеўскай культур. Матэрыялы раскопак калочынскага комплексу сталі эталоннымі для шэрага помнікаў Беларусі і сумежных абласцей Украіны і Расіі. С. (разам з Н. М. Краўчанка) належыць абагульняючая праца «Пахавальныя абрады плямён чарняхоўскай культуры» (1983) у Зборы археал. крыніц (Вып. Д 1—22).

*Тв.*: Городище Колочин 1 на Гомельщине // Славяне накануне образования Киевской Руси. М., 1963 (Материалы и исслед. по археологии СССР; № 108); Опыт сопоставления керамики Белоруссии и балтийских племён в 1 тысячелетии н. э. // Беларускія старажытнасці. Мн., 1972; Раннесредневековые памятники БССР (типа Колочин) в связи с новыми раскопками в Курской области // Этногенез белорусов: Тез. докл. науч. конф. Мн., 1973; Раннесредневековая культура лесной полосы Поднепровья (типа Колочин — Акатово) и её место в славянском этногенезе // Slavia Antiqua. 1975. Т. 22; Черняховская культура и памятники киевского и колочинского типов // Сов. археология. 1983. № 1.

*М. І. Лашанкоў.*



У. **Сыракомля.**

**СЫРАКО́МЛЯ** Уладзіслаў (сапр. Кандратовіч Людвік Аляксандравіч; 29.9.1823, б. фальварак Смольгаў, цяпер в. Смольгава Любанскага р-на — 15.9.1862), беларускі і польскі паэт, краязнавец, археолаг. Чл. Віленскай археал. камісіі (1856). Вучыўся ў дамініканскіх школах у Нясвіжы (1833—35), Навагрудку (1836—37). Жыў у Яськавічах (Салігорскі р-н), Кудзінавічах (Капыльскі р-н), Мархачоўшчыне, Залуччы (Стаўбцоўскі р-н), Нясвіжы, Барэйкаўшчыне (каля Вільні). У 1840—44 працаваў у Нясвіжскай канцылярыі кіраўніцтва радзівілаўскімі маёнткамі. З 1844 арандаваў маёнткі. За ўдзел у антыцарскіх маніфестацыях у 1861 зняволены ў віленскую турму. Першы друкаваны твор — вершаванае апавяданне «Паштальён» [Athenaeum (Атэнэум). 1844. № 6], якое стала рус. нар. песняй «Ямшчык». Яго паэзія прасякнута любоўю да роднага краю, за што С. называлі «вясковым лірнікам». Асн. накіраванасць творчасці — барацьба за вызваленне сялянства ад прыгону. У сваёй творчасці быў цесна звязаны з гісторыяй, фальклорам, этнаграфіяй і археалогіяй Беларусі. Першы яго гіст. нарыс «Нясвіж» (напісаны ў 1844, апублікаваны ў 3-м томе «Старажытнай Польшчы», 1846) адлюстроўваў некаторыя асаблівасці побыту розных слаёў насельніцтва Нясвіжа ў мінулым. Цікавы і неапублікаваны дадатак да гэтай працы — пералік мастацкіх і этнаграфічных каштоўнасцей Нясвіжскага замка (зберагаецца ў аддзеле рукапісаў ЦБ АН Літвы). У працах «Хроніка горада Мінска» (1854), «Мінск» (1857), «Нёман ад вытокаў да вусця» (1861) даследаваў мінулае краю. Пісаў краязнаўчыя нарысы пра Валожын, Вільню, Крэва, Ліду, Меднікі, Мір, Пружаны, Слонім і інш. гарады. Аўтар «Экскурсіі па Літве ў радыусе ад Вільні» (т. 1—2, 1857—60). У работах С. нагадваюцца і археал. помнікі, найперш тэр. Панямоння: стараж. курганы (капцы) у лесе каля фальварка Залучча, земляное ўмацаванне («шведскі шанец») на Віцкавай гары (Стаўбцоўскі р-н), курганы ў Гродна. С. вывучаў гісторыю Нясвіжа, указаў на існаванне валоў стараж. горада. Зрабіў апісанне помнікаў архітэктуры, якія не зберагліся да нашых дзён (кальвінскі збор у Койданаве, бернардзінскі і дамініканскі касцёлы ў Нясвіжы, дамініканскі касцёл у Стоўбцах). Прымаў удзел у падрыхтоўцы і адкрыцці Віленскага музея старажытнасцей, быў яго супрацоўнікам. Вёў археал. раскопкі курганоў у басейне р. Мерач і інш., знаходкі замалёўваў. Археал. даследаванні не паспеў апублікаваць. Меркаваў падрыхтаваць альбом пра край. Даследаваў «Слова пра паход Ігаравы» і ўказваў на бел. паходжанне «Вешчага Баяна». Спрабаваў выдаць краязнаўчы часопіс на Беларусі, даход ад якога меркавалася выкарыстаць на ахову і рэстаўрацыю помнікаў.

*Тв.*: Wedrówki po moich niegdyś okolicach. Wilno, 1853.

*Літ.*: 513, 751, 754, 1271, 1426.

*Г. А. Каханоўскі, В. У. Шаблюк.*

**СЫЧКАВА,** курганны могільнік дрыгавічоў каля в. Сычкава Бабруйскага р-на. За 2 км на ПдЗ ад вёскі, ва ўрочышчы Прыстань, за 400 м на Пд ад шашы Мінск — Бабруйск. 18 насыпаў выш. 4,5—1,6 м, дыям. 7,2—1,3 м. Вядомы з 1924, абследаваў у 1978 П. Ф. Лысенка, даследавала 5 насыпаў у 1989 Т. М. Каробушкіна. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце галавой на З (у адным кургане на У). У трох курганах па аднаму нябожчыку, у адным — тры. У пахаваннях знойдзена вуголле, рэшткі трун і попельна-вугальныя падсыпкі, фрагменты ганчарнага посуду, абручы, дужкі і вушкі ад драўлянага вядра, крэсіва з рэшткамі скуранога чахла, доўгі баявы нож, пярсцёнак з чатырох перакручаных сярэбраных драцінак і інш. У адным з курганоў рэшткаў пахавання не знойдзена. Датуецца 11 ст.

*Т. М. Каробушкіна.*







Гаршчок, пярсцёнкі і баявы нож з курганнага могільніка **Сычкава.**

**СЯБРО́ВІЧЫ,** комплекс археал. помнікаў каля в. Сябровічы Чачэрскага р-на.

Паселішча *верхнедняпроўскай культуры.* За 700 м на У ад вёскі, ва ўрочышчы Ліпаў Брод, на пясчаных узвышшах правага берага р. Сож. Памер 120×80 м. Выявіў і даследаваў у 1927 К. М. Палікарповіч, даследаваў у 1965—68 І. І. Арцёменка. На пл. 706 м² знойдзены больш за 2,5 тыс. фрагментаў ляпнога посуду, упрыгожаных грабеньчатымі, ямчатымі, лапчастымі і інш. адбіткамі. Сярод вырабаў з крэменю каля 700 гатовых прылад працы,

шмат адходаў вытворчасці. Датуецца 3-м тысячагоддзем да н. э.

Бескурганны могільнік *сярэдненяпроўскай культуры.* За 700 м на У ад вёскі, на месцы неалітычнага паселішча. Выявіў у 1927 Палікарповіч, 131 магілу даследаваў у 1965—69 Арцёменка. Пахавальны абрад — трупаспаленне.

Знойдзены каменныя свідраваныя і крамянёвыя клінападобныя сякеры, наканечнікі стрэл, дроцікаў і коп'яў, нажы, скрэблы, ляпны посуд, бурштынавыя пацеркі, фаянсавая пацерка егіпецкага паходжання і інш.

Датуецца 1-й пал. 2-га тысячагоддзя да н. э.

*Літ.*: 847, 863. *А. Г. Калечыц.*

**СЯДО́Ў** Валянцін Васілевіч (н. 21.11.1924, г. Нагінск Маскоўскай вобл.), рускі археолаг. Д-р гіст. навук (1970), прафесар (1986). Скончыў Маскоўскі ун-т (1951). З 1954 працуе ў Ін-це археалогіі АН СССР (заг. сектара археал. збораў, аддзелаў археал. службы і палявых даследаванняў). Даследуе археалогію і культуру стараж. Русі, этнагенез славян, этнічную гісторыю балтаў і фіна-уграў. Узначальваў Крывіцкую (1967—70), Ізборскую (1970—89) і Пскоўскую (1981—90) археал. экспедыцыі ін-та. У 1962, 1966, 1968 правёў разведкі і раскопкі курганоў у Беларускім Панямонні. Выказаў думку, што горад Астрэя знаходзіўся каля сучаснага пас. Астрына, а г. Вевярэск на гарадзішчы ў наваколлі в. Касцянёва на Гродзеншчыне. Лічыць, што плямёны тушамлінскай і банцараўскай культур належалі да балцкай моўнай групы, але з 6 ст. на тэр. дняпроўскіх балтаў усё больш фіксуюцца слав. культурныя элементы, якія сведчаць пра пачатак інфільтрацыі славян у балцкае асяроддзе. Курганныя старажытнасці смаленскіх і полацкіх крывічоў разглядае як адзінае цэлае і падкрэслівае, што найважнейшыя культурныя этнічныя прыкметы смаленска-полацкіх крывічоў у значнай ступені абумоўлены славянізацыяй балтаў, якія жылі тут раней. Мяркуе, што «полочане» не асобная этнаграфічная група крывічоў, а жыхары Полацкай зямлі, насельніцтва, падуладнае полацкім князям. У тэрыторыю рассялення ятвягаў, акрамя Падляшша ў Польшчы, уключае Берасцейскую зямлю і частку Верхняга Панямоння на Беларусі. Прыйшоў да высновы, што ў полацкіх крывічоў, дрыгавічоў і радзімічаў быў распаўсюджаны доўгагаловы сярэднетвары антрапалагічны тып, які мае падабенства з некаторымі латгальскімі групамі насельніцтва. Стварыў тэорыю субстратнага паходжання беларусаў, паводле якой у выніку славянізацыі балцкага насельніцтва і змяшання з ім славян адбылося аддзяленне часткі ўсх.-слав. народнасці, што прывяло да станаўлення бел. мовы і народнасці. Вынікамі ўздзеяння балцкага субстрату тлумачыць вытокі асаблівасцей бел. лінгва-этнічнай супольнасці, якая, на яго думку, аформілася ў 8—12 ст., да пачатку адасаблення беларусаў.

*Тв.*: Сельские поселения центральных районов Смоленской земли (VIII — XV вв.). М., 1960; Славяне Верхнего Поднепровья и Подвинья. М., 1970; Длинные курганы кривичей. М., 1974; Происхождение и ранняя история славян. М., 1979; Восточные славяне в VI — XIII вв. М., 1982; К происхождению белорусов // Сов. этнография. 1967. № 2; Ещё раз о происхождении белорусов // Тамсама. 1969. № 1; О местоположении летописных городов Веверeска и Остреи // Беларускія старажытнасці. Мн., 1972. *Г. В. Штыхаў.*



В. В. **Сядоў.**



Жалезная **сякера** з гарадзішча Старое Краснае (Рэчыцкі р-н). 6 ст. да н. э.




**Сякеры**-кліны: каменныя (1, 5), крамянёвыя (2, 4, 7); цёслы (3, 6). 2—1,5 тыс. да н. э.

**СЯКЕ́РА,** традыцыйная універсальная прылада для апрацоўкі дрэва і інш. матэрыялаў; выкарыстоўвалася і як зброя. Самыя старажытныя С. з крэменю на Беларусі вядомы з эпохі палеаліту. Іх выраблялі таксама з граніту, дыярыту, габра і інш. У неаліце і бронзавым веку яны сталі больш дасканалымі па форме (трапецападобныя ці проставугольныя ў анфас, авальныя, лінзападобныя ці проставугольныя ў папярочніку) і па апрацоўцы (шліфаваныя). Сталі пашырацца С.-кліны і свідраваныя С. (апошнія часта выконвалі рытуальныя функцыі), выкарыстоўваліся і як зброя. У бронзавым веку з'явіліся С. з бронзы (віслаабушковыя, С.-пальштабы і інш.), у раннім жал. веку — з жалеза. У сярэдзіне 1-га тысячагоддзя н. э. ў зах. частцы Беларусі былі пашыраны баявыя вузкалязовыя С. Іх найчасцей знаходзяць у курганах усходнелітоўскага тыпу. З бакоў правушнай адтуліны яны мелі шчакавіцы-выступы, што дазваляла больш трывала замацоўваць канец ручкі. Частка іх мела арнамент па тулаве. С. як зброю славяне пачалі выкарыстоўваць з 7—8 ст. Знаходкі баявых С. характэрны для раннесярэдневяковых пахаванняў і гарадзішчаў. Такія С. адрозніваліся формай ляза, дэталямі абуха і інш. Групу С. выключна баявога прызначэння складалі чаканы — вузкалязовыя С. з абухом у выглядзе малатка. Колькасна пераважалі лопасцевыя ўзоры С. з лязом, моцна адцягнутым да атронка, і шчакавіцамі на абушку. Класічныя формы баявых С. у 11—12 ст. мелі па 2 пары бакавых шчакавіц і зрэзанае вастрыё ляза, што надавала апрача сякучага і рэжучае дзеянне. У 14—15 ст. у зах. частцы Беларусі былі пашыраны шыракалязовыя С., больш масіўныя і без шчакавіц, з шырокімі мысападобнымі выступамі на абуху. Вага С. павялічылася ў 15—16 ст., калі яны страцілі ролю зброі. З 17 ст. формы С. наблізіліся да сучасных. Аднак існавалі і архаічныя формы доўгіх вузкалязовых С., масіўныя, клінападобныя і інш., памеры і форма якіх вызначаліся іх прызначэннем (напр., склюды — цяжкія шырокія С. для часання бярвён і інш.). Жалезныя С. 11—13 ст. знойдзены ў Браславе, Ваўкавыску, Заслаўі, Лагойску, Лукомлі, Мінску і інш., узоры 15—17 ст.— у Брэсце, Віцебску, Мінску, Лідскім і Мірскім замках і інш.

*Літ.*: 416, 474, 475, 527, 665.

*М. М. Крывальцэвіч, Г. М. Сагановіч.*

**СЯЛЕ́Ц,** археал. помнікі каля в. Сялец Навагрудскага р-на.

Селішча раннефеадальнага ча-

су. На ўсх. ускраіне вёскі, на левабярэжнай тэрасе правага прытока р. Валоўка. Даследавалі ў 1956 Прыбалтыйская археал. экспедыцыя, у 1983 В. У. Шаблюк (ускрыта 100 $м^2$). Культурны пласт прасочваецца на адлегласці 500 м уздоўж ракі і на тэр. самой вёскі.

Выяўлена больш за 1000 фрагментаў бытавой керамікі, пераважна гаршкоў (найб. раннія 12 ст.), а таксама серп, нажы, падкоўкі, шкляныя пацеркі, грузіла, манета 17 ст. *(барацінка)*.

Курганны могільнік дрыгавічоў. За 800 м на ПнЗ ад вёскі, у лесе. 51 насып выш. 0,5—1 м, дыям. 4—6 м, асобныя выш. 2 м, дыям. больш за 10 м, частка іх пашкоджана. Даследавалі ў 1972 К. В. Паўлава, у 1973 М. А. Ткачоў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне.

Знойдзены жал. нажы, бронзавыя спражкі, зярнёныя і шкляныя пацеркі, пярсцёнкі, гаршкі, рэшткі драўлянага вядзерца.

Датуецца 10—11 ст.

*Літ.*: 272. *М. А. Ткачоў, В. У. Шаблюк.*




Баявыя **сякеры:** з каменю (1, 2, 4, 6), рогу (3), медзі (5, 7). 2—1,5 тыс. да н. э.



Гліняныя пасудзіны з курганнага могільніка **Сямурадцы.**

**СЯМЁНАВІЧЫ,** селішча 16—18 ст. ва ўсх. частцы в. Сямёнавічы Уздзенскага р-на. Уздоўж тэрасы правага берага р. Уса. Выявіў і даследаваў у 1986 В. У. Шаблюк. У паўн. частцы селішча на тэр. школы раскапана 492 $м^2$. Культурны пласт 0,3—1 м.

Выяўлены гасп. ямы, запоўненыя фрагментамі кухоннага посуду (гаршкі, міскі, макотры, збаны), значная колькасць т. зв. абварной керамікі, тэракотавая кафля 17 ст. з раслліннымі і геральдычнымі сюжэтамі, вырабы з гліны (грузілы, курыльныя люлькі, свісцёлка), шкла (бутэлькі, кварты, стопкі), бронзы, а таксама сякера, нажы, падковы, наканечнік ножнаў мяча, шкляныя і бурштынавыя пацеркі. Знойдзены манеты 17—18 ст., большую іх частку складаюць рускія «денги» часоў Лізаветы Пятроўны. *В. У. Шаблюк.*

**СЯМЁНАЎ ХУ́ТАР,** гл. *Пятроўцы.*

**СЯМУ́РАДЦЫ,** комплекс археал. помнікаў каля в. Сямурадцы Жыткавіцкага р-на. Абследаваў у 1964 Л. Д. Побаль.

Селішча-1. За 500 м на У ад вёскі, на правым беразе р. Сцвіга, ва ўрочышчы Глушэц. Культурны пласт 0,4 м. Знойдзены фрагменты ляпнога і глянцаванага посуду *зарубінецкай культуры.*

Селішча-2. За 2 км на ПдУ ад вёскі, ва ўрочышчы Малая Ляхавіца. Памер 35×150 м. Выяўлены разораны могільнік з трупаспаленнем, рэчы мілаградскай, зарубінецкай і петрыкаўскай культур.

Селішча-3. Ва ўрочышчы Дуброва і Ніўкі, на тэр. сучаснага могільніка. Памер 100×50 м. Знойдзена грубаляпная і глянцаваная кераміка зарубінецкай культуры і ганчарная раннефеад. часу.

Селішча-4. За 500 м на ПнЗ ад вёскі, каля дарогі на Тураў, ва ўрочышчы Барочак. Пл. каля 5 га. Даследавалі ў 1920-я г. А. Дз. Каваленя і С. С. Шутаў.

Знойдзены фрагменты грубаляпнога посуду эпохі неаліту, бронзы, жал. веку, ганчарная кераміка раннефеад. часу, кальцыніраваныя косці.

Селішча-5. За 1,5 км на Пд ад вёскі, на правым беразе р. Сцвіга, ва ўрочышчы Вял. Ляхавіца, на разораным полі. Пл. 4,5 га. Выяўлены сляды паўзямлянак, пахаванняў з трупаспаленнем, кальцыніраваныя косці. Знойдзены фрагменты керамікі мілаградскай, зарубінецкай і пражскай культур.

Бескурганны могільнік-1. Паміж двума старымі рэчышчамі, селішчам і поймай сучаснай р. Сцвіга ва ўрочышчах Дуброва і Ніўкі. Выявіў і даследаваў у 1964 Побаль. Ускрыта 472 $м^2$. Выяўлена 25 пахаванняў у круглых (9) і падоўжаных (16) ямах. Пахаванне грунтовае з трупаспаленнем.

Знойдзены 2 сярэдне- і 2 позналатэнскія фібулы, шкляныя пацеркі, жал. нож, спражка, кольца, праслíца, фрагменты грубаляпнога і глянцаванага посуду.

Бескурганны могільнік-2. На паўн. ускраіне вёскі, на берагах высахлых старыц р. Сцвіга, ва ўрочышчы Дуброўка. Знойдзены кераміка эпохі бронзы.

Курганны могільнік. За 100—150 м на ПнУ ад бескурганнага могільніка-1. 20 насыпаў выш. 0,5—1,5 м, дыям. 6—10 м, адзін выш. да 3 м, дыям. каля 15 м. У 1964 Побаль даследаваў 2 курганы. Пахавальны абрад — трупаспаленне на гарызонце. У аснове аднаго насыпу выяўлена круглае ў плане кольца ад вогнішча, зверху разбіты гаршчок 6—7 ст.

*Літ.*: 899. *Л. Д. Побаль.*







Сякера, талерка і гаршчок з селішча **Сямёнавічы.**

**СЯРГЕ́ЕВА** Зоя Міхайлаўна (н. 11. 11. 1936, с. Ільінскае Дзмітраўскага р-на Маскоўскай вобл.), савецкі археолаг. Канд. гіст. навук (1980). Скончыла Маскоўскі ун-т (1959). З 1960 працуе ў Ін-це археалогіі АН

СССР, з 1986 навук. супрацоўнік. Абследавала археал. помнікі ў Аршанскім, Верхнядзвінскім, Віцебскім, Лёзненскім, Расонскім, Сенненскім, Талачынскім р-нах. Даследавала курганы 8—13 ст. у Верхнядзвінскім і Талачынскім р-нах, вывучала этнічны склад і матэрыяльную культуру сельскага насельніцтва паўн. Беларусі канца 1-га — пач. 2-га тысячагоддзя н. э. Выявіла элементы пахавальнага абраду і матэрыяльнай культуры ўсх. славян Паўн. Беларусі, аналагічныя старажытнасцям балцкіх плямён, што тлумачыць захаваннем традыцый дaславянскага насельніцтва, якое жыло тут да 11 — пач. 12 ст., і кантактамі з суседнімі рэгіёнамі. Па знаходках прыбалтыйскіх рэчаў даследавала сувязі крывічоў з суседнімі балцкімі плямёнамі ў дамангольскі час. Лічыць, што прыбалтыйскія бранзалеты з выявай звярынай галавы на канцы, якія насіла славянабалцкае насельніцтва прылягаючай да Прыбалтыкі тэр. крывічоў, трапілі сюды ў выніку гандл. сувязей па Зах. Дзвіне, Дняпры і яго левых прытоках. На яе думку, у 10—11 ст. большае ўздзеянне на зах.-рус. землі было з боку Прыбалтыкі, у больш позні час (11—12 ст.) — з боку суседніх усх.-слав. плямён крывічоў на Прыбалтыку. Даследавала курганы каля Друцка *(Багрынава).* Устанавіла, што тэр. на У ад Друцка ў 11 ст. засялялі крывічы.

*Тв.:* Курганы у дер. Багриново вблизи древнерусского Друцка (БССР) // Краткие сообщения Ин-та археологии АН СССР. М., 1969. Вып. 120; Раскопки курганов в Восточной Белоруссии (разам з Л. В. Аляксеевым) // Тамсама. 1973. Вып. 135; О прибалтийских шейных гривнах в древнерусских памятниках X—XIII вв. // Тамсама. 1978. Вып. 155; Балтские находки в курганах Западной Руси // Проблемы этногенеза и этнической истории балтов: Тез. докл. Вильнюс, 1981; Изучение курганов в окрестностях Освейского озера // Краткие сообщения Ин-та археологии АН СССР. М., 1989. Вып. 195. *Т. М. Каробушкіна.*

**СЯРЖА́НТЫ**, курганны могільнік каля в. Сяржанты Астравецкага р-на. Размяшчаўся на ПнУ ад вёскі, на левым беразе р. Лоша (зараз не існуе). У канцы 19 ст. тут было больш за 40 насыпаў, часткова разараныя. У 1892 Ф. В. Пакроўскі раскапаў 3 курганы дыям. 8,5—10 м, выш. 0,75—1,4 м. Адзін з іх меў каменны вянец па краі насыпу. У 2 курганах выяўлены пахаванні па абраду трупаспалення па-за межамі кургана.

Пахавальны інвентар: жал. нож, гліняныя прасліцы (цыліндрычныя з валікамі і біканічнае), фрагмент гаршка грубай работы, на якім ляжаў цэлы касцяк птушкі (магчыма, курыцы). На паверхні аднаго з курганоў знойдзены фрагмент бронзавага бранзалета і бронзавая пласцінка. У насыпе трэцяга кургана (з вянцом) выяўлены абломкі дзіцячага чэрапа, а на грунце — касцяк дарослага чалавека галавой на З са складзенымі на грудзях рукамі. Пад чэрапам ляжаў крэмніевы нож і пласцінка з крэменю.

Курганы з трупаспаленнем датуюцца 2-й пал. 1-га тысячагоддзя н. э., належалі балцкаму (усходнелітоўскаму) насельніцтву.

*Літ.:* 912. *Я. Г. Звяруга.*

**СЯРЭДНЕДНЯПРО́ЎСКАЯ КУЛЬТУ́РА**, археал. культура плямён бронзавага веку, якія ў 2-й пал. 3-га — 1-й пал. 2-га тысячагоддзя да н. э. насялялі Верхняе і Сярэдняе Падняпроўе, у т. л. тэр. Гомельскай, Магілёўскай, часткова Мінскай і Віцебскай абласцей. Вылучаюць ранні (26—24 ст. да н. э.), сярэдні (23—18 ст. да н. э.) і позні (18—15 ст. да н. э.) этапы. На тэр. Беларусі С. к. распаўсюдзілася на сярэднім і познім этапах. Асноўны занятак насельніцтва — земляробства і жывёлагадоўля, дадатковы — рыбалоўства, паляванне і збіральніцтва. Паселішчы плошчай 1—1,5 тыс. $м^2$ размяшчаліся на пясчаных дзюнах, узвышэннях поймы, на краях тэрас і на ўчастках карэннага берага. Наземныя жытлы слупавой канструкцыі плошчай да 44 $м^2$ (гл. ў арт. *Ксяндзова Гара*) і паўзямлянкі плошчай да 10 $м^2$ (гл. ў арт. *Струмень*), унутры мелі агнішчы адкрытага тыпу або абкладзеныя камянямі. Пахавальны абрад — трупапалажэнне (галавой на З у авальных або прамавугольных ямах у скручаным становішчы на баку з падсыпкай попелу і охры) і трупаспаленне (на курганных могільніках). Насельніцтва С. к. напачатку вырабляла гаршкі, кубкі, слоікі, чашы з шарападобным, яйцападобным тулавам, слоікападобныя і S-падобныя пасудзіны з плоскім ці патоўшчаным дном, прамым і адагнутым венчыкам, а таксама вял. пласкадонныя пасудзіны з выпуклым тулавам і прамой адагнутай вонкі шыйкай, пазней — разнастайныя гаршкі з высокай і кароткай адагнутай шыйкай, выпуклым тулавам, часам з патаўшчэннем пад краем венчыка. У гліняное цеста дамешвалі пясок, шамот і дробны кварц. Верхняя частка посуду звычайна ўпрыгожвалася адбіткамі шнура, лінейнага і зубчастага штампа, наразнымі лініямі, пазногцевымі ўціскaннямі, зашчыпамі і інш. элементамі, якія ўтваралі гарызантальныя і дыяганальныя рады арнаментаў, трохкутныя кампазіцыі. Сярод упрыгожанняў медныя і бронзавыя дыядэмы, шыйныя грыўні, бранзалеты, трубчатыя пранізкі, скроневыя кольцы, бурштынавыя падвескі ў форме падоўжана-авальнага, плоскага круга, трапецападобнага тыпу. Для вырабу асн. прылад працы (сякер, наканечнікаў стрэл, скрабкоў, скобляў, нажоў, цёслаў, разцоў, праколак, сярпоў і інш.) выкарыстоўвалі крэмень і косць, пры апрацоўцы крэменю — струменістую рэтуш, шліфаванне. Галоўны тып наканечнікаў стрэл — трохвугольныя з выемкай у аснове ці прамой асновай, з двухбаковай апрацоўкай паверхні. Вывучаны найбольш буйныя могільнікі С. к. *Рудня Шлягіна* (урочышча Страліца), *Сябровічы* (урочышча Ліпаў Брод), *Ходасавічы.*

*Літ.:* 79, 847. *А. Г. Калечыц.*



З. М. **Сяргеева.**



Посуд 2-га этапа **сярэднедняпроўскай культуры.**



Вырабы з бронзы **сярэднедняпроўскай культуры.**

**СЯРЭДНЯВЕ́ЧЧА** (сярэднія вякі), у гістарычнай навуцы перыяд, які следуе за гісторыяй стараж. свету і папярэднічае новай гісторыі; у асноўным адпавядае часу зараджэння, развіцця і заняпаду

феадалізму ў Зах. Еўропе. У археалогіі — помнікі, якія ўтварыліся ў 9—18 ст. Падзяляецца на ранняе С. (9—13 ст.) і позняе (14—18 ст.). Раннія помнікі С. прадстаўлены неўмацаванымі і ўмацаванымі паселішчамі і могільнікамі. Да неўмацаваных паселішчаў адносяцца сельскія пасяленні — вёскі, якія размяшчаліся, як правіла, у сутоках малых рэк з вялікімі на карэнных берагах, зрэдку на ўзвышшах ці ўздоўж яроў, дзе ў старажытнасці працякалі крыніцы ці ручаі. Культурны пласт на помніках 0,2—0,4 м, часам 0,6—0,8 м, вызначаецца па цёмнай афарбоўцы на развораным полі і па падʼёмным матэрыяле — пераважна наяўнасці абломкаў ганчарных пасудзін. Плошча неўмацаваных паселішчаў ад некалькіх сотняў квадратных метраў да некалькіх гектараў. У Бел. Панямонні найб. вывучаны ў выніку абследаванняў Ф. Д. Гурэвіч і раскопак Я. Г. Звяругі Гарадзілаўка Навагрудскага, Кавалі Слонімскага, Пескі Мастоўскага, тэрыторыя каля г. п. Красна-сельскі Ваўкавыскага р-на, Сосенка Вілейскага, Засвір і Мікольцы Мядзельскага р-наў і інш., у Верхнім Падняпроўі ў выніку разведак і раскопак Я. Р. Рыера — Эсьманы Бялыніцкага, Калодзецкая Касцюковіцкага р-наў, тэрыторыя каля г. Чавусы і інш., А. А. Макушнікава — Нісімкавічы Чачэрскага р-на і інш., Зах. Палессе даследаваў А. В. Іоў. Да ўмацаваных паселішчаў ранняга С. адносяцца феад. сядзібы-замкі, якія нярэдка размяшчаліся на месцы ранейшых гарадзішчаў. Археалагічна найбольш вывучаны ў Верхнім Панямонні Звяругам і Гурэвіч (Збочна Слонімскага, Індура Гродзенскага, Мсцібава Ваўкавыскага, Гарадок Мядзельскага, Гальшаны Ашмянскага, Свір Мядзельскага р-наў і інш.), ПнЗ Беларусі даследавала Л. У. Дучыц (Маскавічы Браслаўскага р-на), на ПдУ Беларусі праводзіў раскопкі Э. М. Загарульскі (Вішчын Рагачоўскага р-на) і інш. Самай шматлікай катэгорыяй помнікаў ранняга С. з'яўляюцца курганныя могільнікі, вывучэнне якіх на Беларусі пачалося ў 19 ст. раскопкамі Ф. В. Пакроўскага, У. З. Завітневіча, М. Ф. Кусцінскага, М. М. Турбіна, К. П. Тышкевіча і інш. Найб. інтэнсіўна раскопкі курганоў праводзяцца ў паслярэвалюцыйны час. За апошнія 70 гадоў на Полаччыне даследавана каля 800 курганоў. У цяперашні час вывучэннем курганных могільнікаў займаюцца Г. В. Штыхаў, Т. М. Каробушкіна, Дучыц, У. У. Багамольнікаў, П. Ф. Лысенка, Рыер, А. М. Плавінскі і інш. Да ўмацаваных паселішчаў адносяцца і гарады. Паводле пісьмовых крыніц, у 10—13 ст. на тэр. Беларусі існавала 35 гарадоў, большая частка з іх даследавана. Археал. раскопкам Гродна, Ваўкавыска, Полацка, Навагрудка, Мінска, Брэста прысвечаны асобныя манаграфіі, звесткі пра іншыя гарады ёсць у абагульняючых працах Л. В. Аляксеева, Звяругі, Лысенкі, Штыхава і інш. Вывучэнне бел. гарадоў пачалося ў канцы 19 ст. раскопкамі А. П. Сапунова — у Віцебску. Цяпер Беларусь з'яўляецца адзіным рэгіёнам у краіне, дзе найб. распрацавана гар. тэматыка, а некаторыя гар. помнікі археалогіі (напр., Брэст) музеефікаваны.



Посуд 3-га этапа **сярэднедняпроўскай культуры.**

Неўмацаваныя паселішчы позняга С. размяшчаліся звычайна на месцы больш ранніх або паблізу ад іх, часам яны траплюцца на водападзелах вял. і малых рэк. Іх культурны пласт звычайна невыразны (0,3—0,4 м), утрымлівае рэшткі позняга посуду і пячной кафлі. На левабярэжжы Нёмана селішчы позняга С. даследуе В. У. Шаблюк (Мачуліна Ваўкавыскага р-на, Навасёлкі Мастоўскага р-на, Росцевічы Зэльвенскага р-на, Сялец Навагрудскага р-на і інш.). Да ўмацаваных паселішчаў 14—18 ст. адносяцца замкі. Археалагічна найбольш даследаваны Мірскі, Лідскі, Крэўскі замкі і інш., што знайшло адлюстраванне ў манаграфіях М. А. Ткачова і А. А. Трусава. У апошнія гады археал. даследаванне невял. гарадоў і пасёлкаў гар. тыпу (б. мястэчак) праводзяць супрацоўнікі Бел. рэстаўрацыйна-праектнага ін-та. Пахавальныя помнікі — т. зв. ўсходнелітоўскія курганныя могільнікі (каля вёсак Вайшкуны і Лынтупы Пастаўскага, Гарадок Маладзечанскага, Засвір Мядзельскага, Касаўшчына Лідскага, Сідарышкі Астравецкага р-наў і інш.) даследаваў Звяруга, грунтавыя пахаванні 10—17 ст., абкладзеныя камянямі,— *каменныя могільнікі* (Куклі Воранаўскага р-на, Клепачы Слонімскага р-на, Вензаўшчына Шчучынскага р-на і інш.),— А. В. Квятоўская.

*Літ.:* 119. *Л. У. Калядзінскі.*

# Т

**ТАЙМА́НАВА,** археал. комплекс каля в. Тайманава Быхаўскага р-на.

Стаянка позняга мезаліту. За 200 м на Пн ад вёскі, на 1-й надпоплаўнай тэрасе правага берага Дняпра. Адкрыў у 1975 і даследаваў 940 м$^2$ у 1975—77 Л. Д. Побаль. Знойдзены сіметрычныя і асіметрычныя наканечнікі стрэл постсвідэрскай культуры, канцавыя скрабкі, бакавыя і на вуглу зламанай пласціны разцы, праколкі, рэтушаваныя пласціны і адшчэпы.

Датуецца 6-м тысячагоддзем да н. э. На гэтай тэр. ў больш позні перыяд лакалізавалася селішча-1.

Селішча-1 позняга этапу *зарубінецкай культуры* і *банцараўскай культуры.* За 200 м на Пн ад вёскі, на левым беразе р. Белалічка пры ўпадзенні яе ў старыцу Дняпра. Плошча 24—25 га. Выявіў у 1951 Ю. У. Кухарэнка, даследаваў у 1967—83 Л. Д. Побаль. Культурны пласт 0,2—1 м. Выяўлены рэшткі 51 паўзямлянкавага жытла плошчай 10—20 м$^2$, ямы ад наземных і паглыбленых у мацярык жытлаў і розных гасп. і вытворчых пабудоў. Знойдзены жал. наральнік, сярпы, нажы, шылы, зерняцёркі, верхні камень ад жорнаў (пазней выкарыстаны ў печы-каменцы), гліняныя тыглі, бронзавыя вырабы, у т. л. посахападобныя шпількі і лунніцы з эмалямі (выкарыстоўваліся ў язычніцкіх абрадах), рымскія бронзавыя і жал. фібулы, кераміка, шпоры. У вял. колькасці знойдзены рымскія пацеркі, якія, магчыма, выконвалі функцыю грошай. Керамічныя знаходкі прадстаўлены посудам, прасліцамі, грузікамі, грубаляпнымі пасудзінамі з расчосамі.

Датуецца 2—8 ст. н. э. Знойдзена ганчарная кераміка 10—13 ст.

У комплекс уваходзяць таксама 2 селішчы і бескурганны і курганны могільнікі.

**ТАЛАЧЫН,** горад, цэнтр Талачынскага р-на Віцебскай вобл. На р. Друць, за 124 км на ПдЗ ад Віцебска. На аўтамагістралі Мінск — Масква; чыг. станцыя на лініі Мінск — Масква.

Даследавала ў 1987 у час земляных работ В. М. Ляўко. Пры пракладцы траншэй уздоўж вул. Леніна і адыходзячых ад яе бакавых вуліц зафіксаваны культурныя напластаванні магутнасцю ад 0,3—0,4 м (каля аўтавакзала) да 1,5 м (на Цэнтральнай пл.) з прадметамі матэрыяльнай культуры 16—18 ст., а таксама рэшткі драўляных канструкцый. Уздоўж вул. Леніна прасочаны 3 ярусы драўляных насцілаў з бярвён дыям. 10—12 см на лагах дыям. 15—20 см, на інш. участках — 1—2-ярусныя насцілы. На вуглу вуліц Леніна і Энгельса і ўздоўж вуліцы Энгельса выяўлена некалькі вянкоў драўляных зрубаў і фрагмент разбуранага будынка на вапне з буйнапамернай цэглы. Напрамак вуліцы і выўленыя фрагменты забудовы сведчаць, што планіроўка горада захоўвае стабільнасць з канца 16 ст. За ручаём Шчань, які ўпадае ў р. Друць, культурны пласт адсутнічае, што дазваляе ўстанавіць дакладную мяжу пашырэння сярэдневяковага мястэчка ва ўсх. напрамку. Сярод знаходак фрагменты кафлі, глінянага і шклянога посуду, памаднага начыння 18 ст., падковы, падэшвы, абцасы і інш.



1



2



3



4

Фрагмент бронзавага бранзалета з арнаментам (1), бронзавая шпілька (2), упрыгожанне (3), прасліца з рунічным надпісам (4) з археалагічнага комплексу **Тайманава.**





Бронзавая фібула з сярэбранымі накладкамі (правы і адваротны бакі) з археалагічнага комплексу **Тайманава.**

Т. упершыню ўпамінаецца ў 1433 як горад Вял. кн. Літоўскага (знаходзіўся, верагодна, на тэр. сучаснага прадмесця Юзафполле, непадалёку ад в. Стары Талачын), належаў князям Друцкім. З канца 16 ст.— уладанне Сапегаў, якія заснавалі мястэчка Т. на тэрыторыі, дзе знаходзіцца цэнтр сучаснага горада. У 1604 па загаду Л. Сапегі тут закладзена каменная царква, у пач. 17 ст. пабудаваны таксама касцёл. У 1621 было 314 дамоў. З сярэдзіны 17 ст. Т.— гандл. мястэчка Аршанскага пав. Віцебскага ваяводства. У час вайны Рэчы Паспалітай з Расіяй 1654—67 мястэчка спалена, захаваліся 142 дамы. У 18 ст. магнаты Сангушкі адкрылі базыльянскі манастыр са школай (з 1779) і шпіталем. Паводле 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772) Т. уключаны ў склад Расійскай імперыі. Да 1793 быў пагранічным пунктам з таможняй.

*Літ.*: 471. *В. М. Ляўко.*

**ТА́ЛЕР** (ням. Taler), 1) сярэбраная манета 16 — пач. 19 ст. (*метрычная проба* 750—916, *лігатурная маса* 26—29 г). Эмітаваліся таксама наміналы ў 1/4 Т. (гл. *Орт*), 1/2 Т., 2 Т. і больш высокай вартасці (пераважна ў якасці *манеты-данатывы*). Першы Т. выпушчаны Чэхіяй у 1518 (*іаахімсталер*). Імперскі манетны статут 1524 зрабіў Т. асноўнай сярэбранай манетай на тэр. Германскай імперыі. Пазней адкрыліся талерныя эмісіі ў шматлікіх дзяржавах Еўропы. Актавыя крыніцы Беларусі і Украіны называюць Т. талар, таліар, таляр, тарэль, талярок, Расіі — яфімак, тарэль. Чаканка Т. згасае да пач. 19 ст., толькі ў Германіі працягваецца да 1907 уключна.

**ВКЛ.** Выпускаў *Віленскі манетны двор* 1/2 Т. 1564. Т. 1564—65 (гл. *Паўкопка, Чвэрцькопка*, таксама *талеры «спадчыны каралевы Боны»*). **Рэч Паспалітая.** Эмісіі ВКЛ (*лотавая проба* XIII 1/2, маса 28,85 г). Выпускаў Віленскі манетны двор Т. 1580, 1585, 2 Т. 1580. Эмісіі Польшчы (з 1578 проба XIV, маса 28,24 г, з 1580 проба XIII 1/2, маса 28,85 г, з 1650 проба XIV, маса 28,80 г, з 1752 проба XIII, маса 29,23 г, з 1794 проба XI, маса 24,10 г). Выпускалі Быдгашчанскі манетны двор — 1/2 Т. 1620, 1622, 1628—34, 1640—42, Т. 1613—14, 1617—18, 1620—38, 1640—44, 1650—52, 1661, 1676, 1684, 2 Т. 1617, 1623, 1633—36, 1641, 1643, 1647; *Варшаўскі манетны двор* — 1/2 Т. 1767—68, 1772—74, 1788, 1792, Т. 1765—66, 1768—85, 1788, 1792—95; Гродзенскі манетны двор — Т. 1793; Кракаўскі манетны двор — 1/2 Т. 1644—51, Т. 1644—50, 2 Т. 1649; Львоўскі манетны двор — Т. 1661; Олькушскі манетны двор — 1/2 Т. 1581—83, Т. 1580—83, 1587—88, 1590, 2 Т. 1580, 1587; Пазнанскі манетны двор — 1/2 Т. 1651—52, Т. 1600, 1651, 2 Т. 1651; Усхоўскі манетны двор — 1/2 Т. 1651—52, Т. 1651—52, 1658 (адзнакі манетных двароў гл. ў арт. *Манетныя двары Рэчы Паспалітай*); Лейпцыгскі манетны двор — 1/2 Т. 1753—55, Т. 1702, 1753—56, 1762 (адзнакі двара гл. ў арт. *Манетныя двары Саксоніі*), Эмісіі гарадскіх манетных двароў (метралагічныя і якасныя паказальнікі манет такія ж, як у польскай чаканцы).




**Талер.** П о л ь ш ч а: 1. 1567 (чаканка г. Гданьска). Р э ч  П а с п а л і т а я: 2—4. Стэфан Баторый, 1580 (літоўская чаканка), 1580 (польская чаканка), 1586 (сяміградская чаканка); 5—9. Зыгмунт III Ваза, 1628 (паўталер), 1627, 1627 (польская чаканка), 1632 (чаканка г. Торуня), 1632; 10. Уладзіслаў IV Ваза, 1634 (паўталер).



11



12


13


14


15






16


17



**Талер.** Рэч Паспалітая: 11. Уладзіслаў IV Ваза, 1635; 12—13. Ян II Казімір Ваза, 1649 (паўталер), 1649; 14. Ян III Сабескі, 1685 (чаканка г. Гданьска); 15—16. Аўгуст II Дужы, 1702, 1702 (тып альбертусталера); 17. Аўгуст III, 1753 (паўталер, польская чаканка.


18


19




20






23


21


22








25




24



**Талер.** *Рэч Паспалітая*: 18. Аўгуст III, 1760 (чаканка г. Гданьска); 19—21. Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, 1766, 1784 (паўталер), 1794. *Архіепіскапства Зальцбург*: 22. Парыс Ладрон, 1626. *Браўншвейг-Вольфенбютэль*: 23—24. Генрых Юлій, 1593, 1605, *«Свяшчэнная Рымская імперыя» германскай нацыі*: 25. Рудольф II Габсбург, 1607 (чаканка г. Гамбурга).




**Талер.** «Свяшчэнная Рымская імперыя» германскай нацыі: 26. Рудольф II Габсбург, 1577 (чаканка г. Кёльна). Архіепіскапства Кёльн: 27. Максімілян Генрых, 1657. Ольдэнбург: 28. Антон Гюнтэр, 1619—37 Саксонія: 29. Аўгуст, 1562; 30—31. Хрысціян II, Іаан Георг I, Аўгуст, 1599, 1603; 32. Іаан Казімір і Іаан Эрнест, 1591. Сілезія: 33. Герцагства Лігніц, Брыг і Валова: Георг, Людвіг і Хрысціян, 1657.

Выпускалі Гданьскі манетны двор — ½ Т. 1577 (*манета асадная*), 1639—41, 1646, 1649—50, Т. 1567, 1577 (манета асадная), 1636—52, 1655, 1685, 2 Т. 1639, 1650; Тарунскі манетны двор — ½ Т. 1629—32, 1640, 1642, Т. 1630—50, 1659; Эльблёнгскі манетны двор — ½ Т. 1650—51, Т. 1635—36, 1651, 1671, 2 Т. 1651. **Герцагства Варшаўскае.** Выпускала Т. ў 1811—12, 1814 (гл. ў арт. *Манеты герцагства Варшаўскага*). На рынках ВКЛ і Польшчы ў сувязі з працэсамі дэвальвацыі разменных наміналаў рэальная вартасць Т. бесперапынна ўзрастала: у 1528 Т. быў роўны 30 *грошам польскім*, у 1551—32, у 1578—35, у 1600—37, у 1619—50, у 1628—90, у 1600—105, у 1677—108, у 1702—240 і г. д.

2) Грашова-лікавае паняцце, якое вызначала парытэтную Т. суму ў выглядзе больш дробных за яго наміналаў. 3) Вагавая адзінка для серабра, адпаведная масе Т.

*Літ.*: 1565, 1585, 1656, 1671, 1695, 1735. *В. Н. Рабцэвіч.*

**ТА́ЛЕР ЗЛО́ТАВЫ,** талер злоткавы, разнавіднасць талераў ВКЛ і Польшчы, намінальная вартасць якіх адпавядала лікаваму *злотаму*, г. зн. 30 грошам. Т. з. ВКЛ чаканілі *Віленскі манетны двор* у 1564—65 (паўкопка), Польшчы — Олькушскі манетны двор у 1587 (*лотавая проба* XIII, *лігатурная маса* 14,12—16,12 г) і Быдгашчанскі манетны двор у 1620—22 (проба X, маса 19,77 г; адзнакі двароў гл. ў арт. *Манетныя двары Рэчы Паспалітай*).

*Літ.*: 1735.

**ТА́ЛЕР МЕ́ЧАВЫ,** беларуская назва *рыксдаальдэра* з выявай на аверсе рыцара з мячом. Упершыню ўпамінаецца ў пісьмовых крыніцах 1634.

**ТА́ЛЕР ПАЛА́ШНІК,** беларуская назва *рыксдаальдэра* з выявай на аверсе рыцара з мячом-палашом. Упершыню ўпамінаецца ў пісьмовых крыніцах 1649.

**ТАЛЕ́РКА** (ням. Taljer ад італьян. togljer дошка для разразання мяса), сталовы ганчарны посуд з шырокім прыўзнятым борцікам і невял. паглыбленнем. Вядомы глыбокія і плыткія, непаліваныя, паліваныя, дымленыя і глянцаваныя.

Т. сярэдзіны 15 ст. знойдзена ў Гродне. Яна выраблена на ручным крузе, па




**Талер.** Францыя: 34. Людвіг XIV, экю блан 1652. Чэхія: 35. Рудольф II, 1590 (паўталер). Манака: 36. Анарата II, скуда 1653. Швейцарыя: 37. 1622, г. Санкт-Гален; 38. 1620, кантон Шафхаўзен.

борціку ўпрыгожана шматраднымі хвалямі з дапамогай грабеньчыка. У 16 ст. распаўсюдзіліся паліваныя Т. са складанапрафіляваным краем борціка. Шырокі борцік Т. звычайна ўпрыгожваўся адна- ці шматраднымі хвалямі, ялінкамі ці суцэльнай сеткай ромбаў рыфленнем ці карбоўкай. Для нанясення арнаменту выкарыстоўвалі шматрадны грабеньчык, радзей палачку ці калёсіка. Ва ўсх. раёнах акрамя борціка рыфленнем арнаментавалі і донца. Матыў аздобы — хваля па борціку, на донцы — канцэнтрычныя кругі, круг з упісанымі паміж імі рамонкамі, спіраль ці проста рамонак (Магілёў, Мсціслаў). У 17 ст. былі пашыраны размаляваныя Т. (Віцебск, Полацк, Друя, Магілёў, Мсціслаў). Размалёўка рабілася белым ці падфарбаваным *ангобам* пад паліву ці каляровымі глінамі па белай ангобнай паверхні. Такія Т. былі пераважна дэкаратыўныя, маглі падвешвацца на сцяну (адтуліна для шнура на паддоне выяўлена на Т. з Полацка). У 18 ст. як дэкаратыўныя рабіліся маёлікавыя і фаянсавыя Т. *Н. І. Здановіч.*



**Талеры «спадчыны каралевы Боны».** Іспанія: 1. Карлас I [1516—56], паўталер; 2—3. Філіп II [1556—98], паўталер і талер.

**ТА́ЛЕРЫ «СПА́ДЧЫНЫ КАРАЛЕ́ВЫ БО́НЫ»,** манеты, выпушчаныя ў абарачэнне на тэр. ВКЛ і Польшчы Жыгімонтам II Аўгустам у 1564. У 1556 маці Жыгімонта II Бона Сфорца пазычыла каралю Іспаніі Філіпу II 430 тыс. дукатаў. Пасля смерці маці (1558) сын запатрабаваў у мадрыдскага двара выплаты «сум неапалітанскіх». Частка доўгу была вернута іспанска-неапалітанскімі паўталерамі Карла V, паўталерамі і талерамі Філіпа II. У 1564 *Віленскі манетны двор* контрамаркіраваў рэверсы атрыманых манет манаграмай Жыгімонта II (пераплеценыя літары S і A), па баках якой дата — **15—64.** Універсал караля ад 17.5. 1564 абвясціў пра выпуск гэтых манет у абарачэнне. Афіцыйны рыначны курс контрамаркіраванага талера адпавядаў 60 *грошам польскім* або 48 *грошам літоўскім*, паўталера — 30 грошам польскім або 24 грошам літоўскім. Неапалітанскі талер (сярэбранае ўтрыманне 25,79 г) адпавядаў 33,5 грошам польскім або 26,8 грошам літоўскім, паўталер — 16,75 грошам польскім або 13,4 грошам літоўскім. Розніца паміж афіцыйнай *намінальнай вартасцю* і *рэальнай вартасцю* манет дазволіла выкарыстоўваць іх для аплаты войск, што ўдзельнічалі ў Лівонскай вайне 1558—83 з Расіяй. У 1565 гэтыя талеры былі выкуплены ў насельніцтва па ўстаноўленых майскім універсалам 1564 цэнах і выкарыстаны Віленскім манетным дваром у якасці сыравіны для чаканкі літоўскіх манет. Т. «с. к. Б.» першыя ў гісторыі ВКЛ і Польшчы манеты з прымусовым курсам абарачэння (гл. *Манета крэдытная*). На Беларусі вядомы пад назвай філіпок. 2 контрамаркіраваных талеры выяўлены ў *Засоўеўскім манетным скарбе.*

*Літ.*: 1561, 1655, 1662, 1667, 1685.

*Я. Н. Рабцэвіч.*



Размаляваныя **талеркі** 17—18 ст. з Віцебскага Ніжняга замка.

**ТАЛО́ЧКА** Пятро Пятровіч (н. 21.2. 1938, в. Прыстромы Пераяслаў-Хмяльніцага р-на Кіеўскай вобл.), украінскі гісторык і археолаг. Акадэмік АН Украіны (1990), д-р гіст. навук (1981). Скончыў Кіеўскі ун-т (1960). З 1961 ў Ін-це археалогіі АН Украіны (з 1974 заг. аддзела, з 1987 дырэктар). Даследуе паходжанне гарадоў, сацыяльна-эканам., этнічнае і палітычнае развіццё Стараж. Русі. Распрацаваў пытанне ўзнікнення Кіева ў выніку карэнных змен у грамадска-палітычным і сацыяльна-эканам. жыцці ўсх. славян 6—7 ст. Лічыць усх.-слав. «градамі» гэтага часу *Хатомель, Калочын* на Беларусі, Тушамлю на Смаленшчыне. Ахарактарызаваў «град» Кія на Старакіеўскай гары як адм., палітычнае і культавае сканцэнтра-

ванне палянскага саюзу плямён, якое ў далейшым ператварылася ў гал. палітычны, эканам. і культурны цэнтр усіх усх. славян. Прывёў новыя даныя для абгрунтавання сацыяльна двухчасткавай структуры Кіева (дзядзінец — пасад) і інш. вял. усх.-слав. гарадоў. Зрабіў уклад у распрацоўку гіст. дэмаграфіі, вызначыў насельніцтва Кіева 12—13 ст. (каля 50 тыс. чал.). У тыпалогіі населеных пунктаў Стараж. Русі вылучае групу прыватнаўласніцкіх гарадоў. Абгрунтаваў думку, што Полацк у пач. 10 ст. вырас у значны палітычны і эканам. цэнтр гар. тыпу, а Тураў у 11—12 ст. увайшоў у лік буйных рэлігійных цэнтраў краіны.

*Тв.:* Історична топографія стародавнього Киева. 2 вид. Київ, 1972; Киев и Киевская земля в эпоху феодальной раздробленности XII—XIII веков. Киев, 1980; Древний Киев. Киев, 1983; Древняя Русь: Очерки соц.-полит. истории. Киев, 1987; Древнерусский феодальный город. Киев, 1989. *Г. В. Штыхаў.*

**ТАПАНІ́МІЯ** (грэч. tópos месца + ónyma імя, назва), сукупнасць тапонімаў — уласных назваў гарадоў, мястэчак, вёсак, пасёлкаў, рэк, азёр, узгоркаў і ўрочышчаў якой-небудзь тэрыторыі. Вывучаецца тапанімікай — адным з раздзелаў мовазнаўства. Т. ўключае айканімію (назвы паселішчаў), *гідранімію*, аранімію (назву форм рэльефу), урбанімію (сукупнасць назваў унутрыгар. аб'ектаў), харанімію (сукупнасць назваў пэўнай тэрыторыі). Т. з'яўляецца вынікам нар. творчасці і служыць багатай крыніцай інфармацыі пра этнасы, пасля якіх засталіся тапонімы. У ёй вылучаюцца пласты розных часоў і розных моў, захоўваюцца многія архаічныя і дыялектныя рысы. Вывучэнне Т. дае магчымасць больш поўна ўзнавіць этнічную гісторыю пэўнай тэрыторыі, арэал рассялення і шляхі міграцыі народаў, узаемаадносіны моў і этнасаў у старажытнасці. У многіх выпадках вывучэнне Т. дае магчымасць вызначыць этнічную прыналежнасць археал. культур, рэканструяваць этнакультурную гісторыю. Т. Беларусі даследавалі А. А. Качубінскі, А. А. Пагодзін, І. П. Філевіч, Я. Ф. Карскі, М. Фасмер, К. Буга, У. М. Тапароў, А. М. Трубачоў, В. В. Сядоў, А. М. Катонава, Р. А. Агеева, А. П. Ванагас, В. І. Іваноў, А. П. Непакупны, В. А. Жучкевіч, Я. М. Адамовіч, І. Я. Яшкін, В. П. Лемцюгова, Ф. Д. Клімчук і інш. Сучасныя назвы населеных пунктаў Беларусі сабраны Я. Н. Рапановічам.

Асаблівае значэнне для рэканструкцыі стараж. этнічнай гісторыі маюць *мікратапанімія* і гідранімія, асабліва назвы невял. рэчак, якія найменш паддаюцца зменам. На думку многіх даследчыкаў, на Беларусі прасочваецца некалькі тапанімічных пластоў. На ПнЗ і Пн вылучаецца прыбалтыйска-фінскі пласт. Мяркуецца, да яго адносяцца такія тапонімы, як Малмыгі, Свір і інш. Такія тапонімы маглі застацца ад насельніцтва *тыповай грабеньчата-ямкавай керамікі культуры*, якое пранікла на гэту тэрыторыю ў сярэднім ці познім неаліце. Больш познімі з'яўляюцца старажытнаіндаеўрапейскія гідронімы, якія, паводле Сядова, былі пакінуты ў канцы 3 — пач. 2-га тысячагоддзя да н. э. плямёнамі *шнуравой керамікі культуры*. Балцкі тапанімічны пласт мог скласціся ў раннім жал. веку (1-е тысячагоддзе да н. э.— першыя 3 чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э.) пад уплывам насельніцтва *штрыхаванай керамікі культуры, днепра-дзвінскай культуры, банцараўскай культуры, тушамлінскай культуры*, магчыма, *мілаградскай культуры* і *зарубінецкай культуры*. Некаторыя даследчыкі адносяць з'яўленне балцкай тапанімі-



В. Р. Тарасенка.

кі да бронзавага веку. Больш за ўсё балцкіх тапонімаў на Пн і ў сярэдняй Беларусі, але яны трапляюцца таксама на Прыпяці і на яе правых (паўднёвых) прытоках. Даследаванні Тапарова і Трубачова паказалі, што густая сетка балцкай гідраніміі існуе і ў Беларускім Падняпроўі, адкуль пераходзіць у басейн Зах. Дзвіны. Значная колькасць балцкіх тапонімаў ёсць таксама ў Панямонні. Каля 5 ст. да н. э. прабалцкая мова распалася, вылучыліся 3 групы балтаў: будучыя прусы, яцвягі і куршы; продкі літоўцаў і латышоў; дняпроўскія балты, да якіх належала насельніцтва днепра-дзвінскай, верхняокскай і юхнаўскай культур. Каля 6 ст. н. э. славяне, якія рухаліся на ПнУ, аддзялілі дняпроўскіх балтаў ад іншых. Пазней дняпроўскія балты паступова асіміляваны славянамі. З гэтага часу на тэр. Беларусі пашыраецца слав. тапаніміка. У першую чаргу славянскімі становяцца айконімы і мікратапонімы. Славянскімі сталі і назвы гарадоў, якія ўзніклі ў феадальны перыяд. На ПнЗ Беларусі этнічная мяжа паміж славянамі (пазней беларусамі) і балцкімі народамі адрознівалася ад сучаснай. Працэс беларусізацыі балтаў тут адбываўся да 19 ст. Таму ў Панямонні захавалася шмат балцкіх тапонімаў, у т. л. айконімаў. Сярод іх назвы, якія паўтараюць адпаведныя этнонімы, г. зн. назвы плямёнаў (напр., назвы тыпу вёсак Літва, Дайнава, Ятвязь, Лотва, Латыгаль, Латыголічы, Відзы і г. д.), назвы паселішчаў з канчаткамі -ішкі, -енцы, -ененты і інш. На тэрыторыях, куды пранікалі ўсх.-слав. плямёны, захаваліся айконімы тыпу Крывічы, Славенск, Палачаны, Палачанка. Познасярэдневяковыя айконімы адлюстроўваюць рознабаковыя кантакты беларусаў з прадстаўнікамі іншых народаў, наяўнасць этнічных «астраўкоў» (Мазурына, Ляхі, Ляхавічы, Чэхаўшчына, Маскалі, Татары, Латышы). Частка айконімаў указвае на кампактнае пражыванне прадстаўнікоў асобных сацыяльна-саслоўных груп (Баяры, Агароднікі, Канюхі). Тапонімы могуць несці карысную інфармацыю для вызначэння накірунку археал. пошукаў.

*Літ.:* 11, 370, 371, 1060, 1208. *Э. М. Зайкоўскі.*

**ТАРА́САЎ** Сяргей Васілевіч (н. 20.1.1961, г. Мінск), бел. археолаг. Скончыў Мінскі педагагічны ін-т (1982). З 1982 у Ін-це гісторыі АН Беларусі. Даследуе археал. помнікі стараж. Полацка: Верхняга і Ніжняга замкаў, першапачатковага гарадзішча і селішча, Вялікага і Запалоцкага пасадаў, паселішча на Востраве і інш. Адкрыў месцазнаходжанне полацкага пасада 9—10 ст., некалькі невядомых раней паселішчаў-спадарожнікаў Полацка 11—13 ст. Удзельнічаў у археал. даследаванні Мінскага замчышча (1984—86).

*Тв.:* Чарадзей з сёмага веку Траяна: Усяслаў Полацкі. Мн., 1991.

**ТАРАСЕ́НКА** Васіль Радзівонавіч [26.10(7.11). 1899, г. Пётркуў, Польшча — 7.12.1972], беларускі археолаг. Канд. гіст. навук (1947). Скончыў Маскоўскі археал. ін-т (1922), Смаленскі ун-т (1926). У 1929—41 навук. супрацоўнік Магілёўскага гіст. музея, выкладчык Магілёўскага педагагічнага ін-та. З 1944 навук. супрацоўнік, у 1963—66 заг. сектара археалогіі Ін-та гісторыі АН БССР, выкладчык БДУ і Мінскага педагагічнага ін-та. Даследаваў помнікі жал. і каменнага вякоў на тэр. Смаленскай і Магілёўскай абласцей. Першы пачаў вывучаць стараж. Мінск, дзе адкрыў драўляную гар. забудову, вулічныя маставыя з бярвён 11—13 ст., унікальны фундамент храма 12 ст. Выявіў шмат розных вырабаў гар. рамеснікаў, у т. л. залаты бранзалет са змяінымі галовамі, вагой 75, 421 г. Вёў раскопкі ў Полацку, Ваўкавыску. Адзін з аўтараў кніг «Гісторыя Мінска» (1967), «Гісторыя Беларускай ССР» (т. 1, 1972), «Нарысы па археалогіі Беларусі» (ч. 2, 1972) і інш.

*Тв.:* Раскопки на городище Барсучья Горка // Краткие сообщения Ин-та истории материальной культуры АН СССР. М., 1947. Вып. 15; К истории позднеродового общества на территории Белоруссии // Известия АН БССР. 1948. № 2; Древний Минск // Материалы по археологии БССР. Мн., 1957. Т. 1; Раскопки городища «Шведская гора» в Волковыске в 1954 г. // Тамсама. *Т. М. Каробушкіна.*

**ТА́ТУР** Генрык Хрыстафоравіч (1846, Мінск — 1907), бел. археолаг,

гісторык, краязнавец, калекцыянер. Чл. Мінскага статыстычнага к-та, павятовы маршалак дваранства. З 1874 вёў археал. раскопкі ў Мінскай губ., склаў яе археал. карту з апісаннем помнікаў. У 1884—85 занаваў часовы археал. музей у Беразіно, дзе ў наваколлі вёў раскопкі (Калюжыцы, Крушына, Курганне, Русалішча і інш.). Толькі за 1890 ён раскапаў 120 курганоў каля Дулебаў і Няюнішчаў Ігуменскага пав., у 1892 — 40 курганоў каля Станькава, у 1893 — 40 курганоў каля в. Прылукі Мінскага пав. У выніку паездак па Міншчыне Т. падрыхтаваў вялікі альбом археал. помнікаў (1893). Стварыў у Мінску багаты прыватны музей па гісторыі матэрыяльнай культуры Беларусі і унікальную бібліятэку (калекцыі рукапіснай і старадрукаванай кнігі, у т. л. «Біблія» Ф. Скарыны, бел. жывапісу). Выказваўся за стварэнне агульнанацыянальнага музея ў Мінску. Пасля смерці яго зборы былі прададзены, многія вывезены за мяжу. Аўтар прац «Гістарычны нарыс мястэчка Турава, ранейшай сталіцы ўдзельнага Тураўскага княства», «Гісторыя Станькава», «Гісторыя Заслаўя», праекта адкрыцця публічнай бібліятэкі ў Мінску і інш. (захаваліся ў рукапісах).

*Тв.*: Археологическое значение Минской губернии // Памятная книжка Минской губернии на 1878 г. Мн., 1878. Ч. 2; Очерк археологических памятников на пространстве Минской губернии и ее археологическое значение. Мн., 1892.

*Літ.*: 35, 300, 510, 5146.

*Г. А. Каханоўскі.*

**ТАЎКАЧЭ́ВІЧЫ 1-я**, курганны могільнік дрыгавічоў каля в. Таўкачэвічы Уздзенскага р-на. За 3—3,5 км на ПнУ ад вёскі, за 1 км на Пн ад в. Малінаўка, каля дарогі Шацк — Рудзенск, у лесе. 170 насыпаў выш. 0,5—1,8 м (большасць не вышэй за 1 м), дыям. 8—12 м, вакол некаторых прасочаны раўкі. Адкрыў і абследаваў у 1979 Л. У. Калядзінскі, даследавалі 10 курганоў А. М. Плавінскі і В. С. Касмылёў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на попельным слоі або пясчанай падсыпцы галавой на З. 6 адзіночных пахаванняў, 4 — парныя, 2 нябожчыкі прыкрыты плахамі, адзін — у труне, зробленай з калоды.

Знойдзены ганчарны посуд, жал. нож, лірападобныя спражкі, бронзавыя ланцужкі, падвескі з S-падобным завіткам, заколка, разнастайныя пацеркі (цыліндрычныя з непразрыстага шкла, бочачкападобныя золаташкляныя, сярэбранашкляныя, сярэбраная буйназярнёная «дрыгавіцкая»).

Датуецца 11—12 ст.

*А. М. Плавінскі.*

**ТАЎТА́ВІЧУС** Адольф Зянонавіч (н. 9.9.1925, в. Юдрэнай Цяльшайскага пав., Літва), археолаг. Канд. гіст. навук (1954). Скончыў гіст.-філалагічны ф-т Вільнюскага ун-та (1950). З 1946 працуе ў Ін-це гісторыі АН Літвы, у 1962—87 загадчык, з 1987 старшы навук. супрацоўнік аддзела археалогіі, адначасова ў 1957—60 выкладаў археалогію ў Вільнюскім ун-це. Праводзіў раскопкі на тэр. Ніжняга замка ў Вільнюсе (1955—61), Тракайскага замка (1962—64). Даследаваў грунтавыя могільнікі Зах. Літвы (Паланга, Бікавенай, Пожэрэ, Уцена і інш.), курганныя могільнікі Усх. Літвы (Капітонешкес, Рыклікай, Таўрапіліс і інш.). Саа́ўтар кніг: «Нарыс археалогіі Літвы» (1961), «Гісторыя горада Вільнюса» (т. 1, 1968), «Замкі Літвы» (1971), «Гандлёвыя сувязі насельніцтва Літвы ў I—XIII ст.» (1972), «Этнагенез літоўцаў» (1987, усе на літоўскай мове), «Гісторыя Літоўскай ССР» (1978, на рус. мове; 1985, на літ. мове). Аўтар многіх артыкулаў па археалогіі Літвы. У 1960—80 прымаў удзел у падрыхтоўцы бел. археолагаў.



А. З. **Таўтавічус.**

*М. А. Ткачоў.*

**ТАЦЭ́НКА-КУДЛА́ЕЎСКАЯ КУЛЬТУ́РА**, гл. ў арт. *Кудлаеўская культура.*

**ТКАНІ́НА**, выраб з натуральных валокнаў, атрыманы перапляценнем узаемна перпендыкулярных нітак у працэсе *ткацтва*. Вырабляецца на ткацкіх станках. З'явілася ў эпоху неаліту. Пра Т. эпохі жал. веку даюць уяўленне невялічкія кавалачкі Т., выраблены з шэрсці і льну, якія захаваліся на жал., бронзавых ці медных рэчах, а таксама адбіткі Т. на гліняным посудзе. Т. перыяду Кіеўскай Русі знойдзены ў Брэсце, Гродне, Мінску, Віцебску, у курганах каля Заслаўя (Мінскі р-н), Віцебска, Наўраў (Мядзельскі р-н), Пуцілкавічаў (Ушацкі р-н) і інш. Сустракаюцца льняныя і пяньковыя Т. ў 2 ніты, вытканыя «елачкай» у 4 ніты. Выяўлены камбінаваныя Т. з шарсцяных і льняных нітак, шарсцяных нітак з дабаўленнем воўсевых валасоў. На Беларусі шарсцяныя Т. вядомы пад назвамі сукно, сярмяга, валасяніца. Найчасцей Т. мелі карычневы, зялёны, жоўты, чырвоны, сіні, чорны колеры; сустракаюцца Т. ў клетачку і палоску. У Гродне, Мінску, курганах у басейне р. Прыпяць і ваколіцах воз. Лісна знойдзены ўзорыстыя шаўковыя Т. карычневага і ружовага адценняў, а таксама гладкія вышытыя залатымі ніткамі. Шаўковай Т. абшывалі каўняры і край адзення, з іх часта рабілі галаўныя ўборы. Шарсцяныя і льняныя Т. мясцовай вытворчасці, шаўковыя пераважна візантыйская паходжання.

*Літ.*: 667, 932, 1245. *Л. У. Дучыц.*

**ТКА́ЦТВА**, выраб *тканін* з дапамогай спец. сродкаў і прыстасаванняў. На Блізкім Усходзе (Сірыя, Месапатамія, Егіпет) вядома з 5-га тысячагоддзя да н. э., на Беларусі — з часоў позняга неаліту і ранняга бронзавага веку. У Панямонні на помніках *шарападобных амфар культуры* сустракаюцца кавалкі гліняных пасудзін з адбіткамі грубавырабленай тканіны. На помніках мілаградскай, днепрадзвінскай і штрыхаванай керамікі культур (гл. адпаведныя артыкулы) знойдзены невял. гліняныя *грузілы* да ткацкіх станкоў. На ПнУ Віцебскай вобл., дзе характэрны ўплыў *дзякоўскай культуры*, сустракаюцца фрагменты пасудзін з адбіткамі тканіны на днішчах. У 9—10 ст. тканіны выраблялі на вертыкальным ткацкім станку з выкарыстаннем масіўных грузіл. Грузіла дыскападобнай формы (дыям. 7,65—7,8 см, таўшч. ў сярэдняй частцы 2,9 см, вага 99,65 г) з рога аленя з прасвідраванай пасярэдзіне канічнай адтулінай знойдзена на *Віцебскім Верхнім замку*. У пластах 10 ст. на Віцебскіх Верхнім і Ніжнім замках знойдзена гліняная грузіла да вертыкальнага ткацкага станка (дыям. 11,3 см, дыям. адтуліны 2,3 см, вага 550 г), аздобленае ямкавым арнаментам. Аналагі вядомы па раскопках Старой Ладагі і ў Скандынавіі. З пач. 13 ст. на Русі вядомы гарызантальны ткацкі станок — кросны. Найб. калекцыя дэталей кроснаў сабрана ў Ноўгарадзе. На Беларусі дэталі кроснаў 13—15 ст. знойдзены ў Брэсце (бёрды, ніты, цяжы, панажы), Віцебску (панажы, ніты, цяжы і сабачкі), Мінску (панажы і чаўнок), Гродне і Полацку (чаўнакі). У пластах 13 ст. ў Віцебску і Брэсце выяўлены кавалкі тканіны палатнянага (двухнітовага) і саржавага (чатырохнітовага) перапляцення. У 14—17 ст. Т. развівалася і набыло пашырэнне як рамяство. У пластах 16 ст. ў Віцебску знойдзены кавалкі тканіны больш складанага перапляцення. Як хатні промысел ручное Т. захавалася да сярэдзіны 20 ст. *Л. У. Калядзінскі.*

**ТКАЧО́Ў** Міхаіл Аляксандравіч (10.3.1942, г. Мсціслаў — 31.10.1992), беларускі археолаг, гісторык-медыявіст. Д-р гіст. навук (1987), прафесар (1989). Скончыў БДУ (1964). Працаваў настаўнікам у Жодзіне. З 1968 у Ін-це гісторыі АН БССР, з 1978 у Гродзенскім ун-це; у 1983—85 заг. кафедры. Заснавальнік і кіраўнік гісторыка-культурнага клуба «Паходня» ў Гродне. З 1989 заг. рэдакцыі гісторыі Беларусі, з красавіка 1992 галоўны рэдактар выдавецтва «Беларуская Энцыклапедыя» імя П. Броўкі. Вывучаў ваенную гісторыю Беларусі, абарончае дойлідства, матэрыяльную культуру і архітэктуру гарадоў Беларусі 10—18 ст.: Навагрудка, Гродна, Віцебска, Гомеля, Чачэрска, Слаўгарада, Крычава, Мсціслава, Ліды, Крэва, Камянца, Заслаўя, Міра і інш. Адзін з аўтараў кніг «Нарысы па археалогіі Беларусі» (ч. 2, 1972), «Асвета і педагагічная думка ў Беларусі» (1985), «Гісторыя беларускага мастацтва» (т. 1—2, 1987—88), «Беларуская кафля» (1989), «Старажытны Мсціслаў», «Вялікае мастацтва артылерыі» (абедзве 1992). З 1989 нам. старшыні Сойма Бел. нар. фронту «Адраджэньне», з 1991 старшыня Цэнтральнай рады Бел. сацыял-дэмакр. Грамады.

*Тв.*: Вежы валынскага тыпу і іх распаўсюджванне на Беларусі // Беларускія старажытнасці. Мн., 1972; Замкі Беларусі (XIII—XVII ст.). Мн., 1977; Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII—XVIII стст. Мн., 1978; Замки Белоруссии. Мн., 1987.

*М. М. Чарняўскі.*

**ТО́РНЕР** (англ. turner ад франц. tournois), дробная медная непаўнавартасная манета Каралеўства Шатландыя. Выраблялі ў часы Якава I Сцюарта [1603—25], Карла I [1625—49], Карла II [1660—84]. Рэальны кошт манет 1-й эмісіі 1614 Якава VI складаў $^2/_3$ ад намінальнай вартасці, 2-й эмісіі 1623 — $^1/_2$, 1-й эмісіі 1629 Карла I — $^1/_2$, 2-й 1632 — $^1/_5$, 3-й 1642 — $^3/_4$. На тэр. Рэчы Паспалітай найб. распаўсюдзіліся Т. Карла I 2-й эмісіі, якіх было завезена ад 1 да некалькіх млн. экз. На іх аверсе ў кругавой легендзе пад каронай змешчана абрэвіятура CR (carolus rex) і пазначэнне наміналу — II (2 пені); на *рэверсе* — у кругавой легендзе выява чартапалоха.

Т. Карла I 2-й эмісіі мелі дыяметр, таўшчыню і вагу, адпаведныя нізкапробным сярэбраным *солідам* Рэчы Паспалітай і сустракаюцца ў скарбах з імі, таму, магчыма, абарачаліся па курсе сярэбраных солідаў. Вядома 79 скарбаў з адзінкавымі знаходкамі гэтых Т. (больш за 200 экз.): на Беларусі (17), Украіне (29), у Польшчы (15), Літве (9), Латвіі (8), Расіі (1). Большасць скарбаў ухавана ў 1635—60, г. зн. да пачатку масавага выпуску (1660—67) медных солідаў Рэчы Паспалітай *(бараціпка)*, якія ліквідавалі дэфіцыт разменнай манеты. У скарбах пасля 1663 Т. амаль не сустракаюцца.

*Літ.*: 1581, 1589. *І. І. Сінчук.*

**ТРАДЫ́ЦЫЯ** (ад лац. traditio перадача), элементы сацыяльнай і культурнай спадчыны, якія трывала захоўваюцца і перадаюцца ад пакалення да пакалення. Яны ўласцівы ўсім сацыяльным арганізмам і з'яўляюцца ўмовай іх жыццяздольнасці. Археал. матэрыялы сведчаць пра існаванне Т. амаль ва ўсіх археал. культурах: стагоддзямі захоўваліся тыпы паселішчаў, жытлаў, іх інтэр'ераў, прылады працы, посуд, упрыгожанні і інш. Асобныя аб'екты аднаго тыпу мелі нязначныя адрозненні, што дэманструе павольныя змены, г. зн. традыцыйнасць. Археал. культура існуе дзякуючы Т. яе носьбітаў. Калі ў пэўнай культуры пачынае пераважаць чужая Т., гэтая культура перастае існаваць і нараджаецца новая. Паняцце Т. процілеглае *навацыі*. *С. Я. Расадзін.*



М. А. Ткачоў.




Торнер. Шатландыя: 1—2. Карл I, 1632—33, 1642; 3. Карл II, 1664—75.

**ТРА́НСПАРТНЫЯ СРО́ДКІ**, вырабы і прыстасаванні для перамяшчэння чалавека або грузаў на адлегласць. Падзяляюцца на водныя (найб. старажытныя па паходжанні) і сухапутныя. Вядомы з часоў Стараж. Егіпта. Водныя Т. с. на тэр. Беларусі вядомы з неаліту. Выдзеўбаны са ствала дрэва човен знойдзены на Крывінскім тарфяніку (Бешанковіцкі р-н, не захаваўся). Неалітычны човен і вёслы выяўлены на стаянцы Сарнатэ ў Латвіі. Т. с. 12—17 ст. вядомы па раскопках многіх бел. гарадоў. Драўляныя дугападобныя рэбры (шпангоўты), на якіх мацавалася абшыўка корпуса невял. лодак-пласкадонак і чаўноў 13 ст., знойдзены ў Брэсце, Полацку, шпангоўт 15 — пач. 16 ст. (выш. 25 см, адлегласць паміж канцамі дугі 30 см) — на *Віцебскім Верхнім замку*. Лодачныя лавы 13 ст. (дошка памерам 30 × 40 см з выразамі па баках для шчыльнай падгонкі да шпангоўтаў) знойдзены на Віцебскім Верхнім замку і ў Слуцку. Цэлыя кармавыя вёслы ад суднаў, прызначаных для працяглай транспарціроўкі важкіх грузаў, выяўлены ў Брэсце і Слуцку, фрагменты такіх вёслаў (агульная даўж. 122—172 см, таўшч. 3—5 см, памеры лопасці 20 × 67 — 28 × 102 см, даўж. ручкі 60—77 см) — у Віцебску. Цэлыя грабныя вёслы 13 — пач. 14 ст. (агульная даўж. 92,5—131 см, памеры лопасці 23,5—50 × 95—14 × × 1,2 см) вядомы з раскопак Брэста і Віцебскага Верхняга замка. Фрагменты іх знойдзены ў Гродне і Слуцку.

Сухапутныя Т. с. прадстаўлены знаходкамі дэталей зімовага (саннага) і летняга гужавога транспарту. Часцей сустракаюцца дэталі саней. Яны вядомы па раскопках Брэста, Віцебскага Верхняга замка, Полацка і Слуцка. Капылы (бакавыя стойкі, што злучалі палазы і градку саней) рабілі з сучком-вязам (Віцебск) і без яго (Брэст). Вышыня капыла 30—60 см, градкі 11—22 см, кузава 15—42 см. Палазы былі масіўныя (шыр. асновы 8 см, верха 3—5 см) і меншыя (адпаведна 3—4 см, 1,5—2 см), мелі адтуліны для капылоў. Цэлы полаз даўж. 195 см (13 — пач. 14 ст.) знойдзены ў Віцебску. У бел. гарадах 13—14 ст. пераважалі невял. сані універсальнага прызначэння. Знойдзены капылы і палазы ад маленькіх ручных санак. Летні гужавы транспарт прадстаўлены дэталямі воза. Вось 12 ст. знойдзена ў Мінску, восі 13 ст. даўж. 145—168,6 см — у Брэсце (2), Полацку (1), восі 17 ст. даўж. 158 см — у Мінску (пярэдняя) і Віцебску (задняя). Яны мелі «падушку» для мацавання жэрдкі (трайні), а на канцах паўвосей — адтуліны для чэкаў (загвоздкаў). Вядомы таксама калодкі колаў 13 ст. з Полацка і Мінска, спіцы 13 — пач. 14 ст. з Брэста, Віцебска, Слуцка, Мінска, абады колаў 13 ст., з Брэста, Полацка, Мінска, вобад 15 — пач. 16 ст. з Віцебска. У Брэсце знойдзена цэлае кола без жал. вобада

(знешні дыям. вобада 86,6 см) з калодкай у выглядзе драўлянага цыліндра (даўж. 41,2 см, дыям. 18,5 см) з каналам пад вось (дыям. 8,7 см) і спіцамі (даўж. 38,7 см, памер сячэння 2,7 × 4,5 см). Унікальнай знаходкай з'яўляецца драбіна воза 13 ст. з Віцебскага Верхняга замка, зробленая з 2 яловых брусоў, злучаных дубовымі стойкамі, якія ўстаўлены ў скразныя адтуліны (1,5 × × 8 см) асновы драбіны і яе градкі. Даўж. драбіны 214 см, шыр. на канцах 32—40 см, брусы ў вузкай яе частцы завострaны. Конская дуга (выш. 56 см, адлегласць паміж канцамі 61 см) і клешчына (даўж. 48 см) з загнутымі канцамі знойдзены ў Віцебску, а таксама ў Брэсце. За межамі Беларусі найб. поўная калекцыя дэталей Т. с. вядома па раскопках Ноўгарада.

*Літ.*: 385, 549, 555, 702, 1347.

*Л. У. Калядзінскі.*

**ТРАСАЛАГІ́ЧНЫ МЕ́ТАД,** спосаб вывучэння вытворчых функцый стараж. прылад па слядах іх зношвання. Істотная частка Т. м.— пошук і вызначэнне слядоў мікраскапічных памераў у выглядзе выкрышанасці, драпін, баразён, увагнутасцей, заліроўкі і інш., якія ўказваюць на кінематыку прылады. Паводле размяшчэння, формы і напрамку гэтых слядоў вызначаецца матэрыял, які падвяргаўся апрацоўцы прыладай, спосаб захопу прылады рукой, характар руху і палажэнне рук у працэсе работы. Вывучэнне па слядах работы дае магчымасць дасканальна распазнаць рабочую частку прылады, даведацца, ці выкарыстоўвалі яе ў адной або дзвюх, трох і больш зусім розных аперацыях, ці адпавядае яе форма і матэрыял функцыянальнаму прызначэнню і інш. Т. м. разам з *эксперыментам археалагічным* дазваляе вылічыць працягласць выкарыстання прылады, вызначыць яе эфектыўнасць, ступень фізічнага намагання і дынамічныя напружанні ў працэсе працы стараж. людзей. Т. м. распрацаваны ў СССР у 1930—50-я г. А. С. Сямёнавым і атрымаў шырокае прызнанне за мяжой.

*Літ.*: 1070, 1073, 1177.

*В. Я. Кудрашоў.*

**ТРАСЦЯНІ́ЦА,** група археал. помнікаў каля в. Трасцяніца Камянецкага р-на.

Бескурганны могільнік *паморскай культуры* (4—2 ст. да н. э.). За 2 км на Пн ад вёскі, справа ад дарогі на в. Ратайчыцы. Большая частка могільніка занята сучаснымі могілкамі. Адкрыў у 1937 К. Салевіч, даследавала ў 1962 В. Б. Караткевіч. Пахавальны абрад — трупаспаленне. Выяўлены 2 пахаванні і 22 ямы, запоўненыя попелам, камянямі і шлакам. У адным пахаванні на глыб. 85 см выяўлена своеасаблівая каменная скрынка, сценкі якой зроблены з невял. валуноў у адзін ярус. Мела форму няправільнага прамавугольніка (даўж. 2 м, шыр. аднаго боку 0,95 м, другога — 0,4 м). Унутры скрынкі з зах. боку стаяў гліняны гаршчок з рэшткамі перапаленых касцей 2 нябожчыкаў. Гаршчок быў накрыты гліняннай накрыўкай. З усх. боку знаходзіліся 4 гліняныя пасудзіны: вял. чорная глянцаваная ваза і міска, у якой ляжалі кубак і збан. У другім пахаванні рэшткі перапаленых касцей нябожчыка ляжалі невял. кучкай у пяску на глыб. 0,55 м. Каля касцей і пад імі знойдзены абломкі вял. гліняннай пасудзіны, жал. раннелатэнская фібула і драцяны пярсцёнак. Уся кераміка ляпная.



Пасудзіна 4—2 ст. да н. э. з бескурганнага могільніка **Трасцяніца.**




Скроневыя кольцы (1, 2, 3, 7, 8), пярсцёнак (4), бронзавыя зярнёныя пацеркі (5, 9), шыфернае праслiца (6), жалезныя шпількі (10, 12), паясное кольца (11), металічная падвеска (13), бронзавыя спражкі (14, 16), шкляныя пацеркі (15) з курганнага могільніка-1 **Трасцяніца.**

Курганны могільнік-1 дрыгавічоў. За 700 м на ПнЗ ад вёскі, з левага боку дарогі на в. Ратайчыцы, на сучасных могілках. 79 насыпаў выш. 0,4—0,8 м, дыям. 4,2—8 м, падножжа якіх абкладзена валунамі (некаторыя папсаваны сучаснымі магіламі). Вядомы з канца 19 ст. Даследавалі ў 1962 І. В. Біруля (7 насыпаў), у 1983 і 1987 — Т. М. Каробушкіна (20). Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце і ў ямах галавой на З. Пахаванні адзіночныя (толькі ў адным трайное) на попельнай падсыпцы таўшч. 20—35 см. Рэшткі дошак і каваныя цвікі ў некаторых пахаваннях сведчаць пра наяўнасць труны.

Знойдзены фрагменты ганчарнага посуду, 2 цэлыя гаршкі, шыфернае праслiца, залачоныя і рознакаляровыя шкляныя, бронзавыя зярнёныя пацеркі, сярэбраныя і бронзавыя скроневыя кольцы з S-падобным завіткам на канцы і ў паўтара абарота, металічная двухбаковая падвеска, кінжал у скураным футляры з металічным упрыгожаннем, бронзавыя спражкі, металічныя шпількі з кольцам на канцы, цуглі і інш.

Датуецца 11—13 ст.

Курганны могільнік-2 дрыгавічоў. За 500 м на ПнЗ ад вёскі, за 100 м ад шашы Відамля — Высокае. Раней насыпаў было шмат, да 1985 захавалася 4 курганы выш. 0,2—0,4 м, дыям. 5—6 м (у 1986—87 пашкоджаны кар'ерам). Вядомы з 19 ст. У 1960 2 насыпы даследаваў І. В. Біруля, у 1980-я г. абследавала Т. М. Каробушкіна. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў насыпе галавой на З.

Знойдзены фрагменты ганчарнага посуду з хвалістым арнаментам. У кар'ерах знаходзілі посуд, нажы і інш.

Датуецца 11—13 ст.

*Літ.*: 583.

*В. Б. Караткевіч, Т. М. Каробушкіна.*

**ТРАЦЦЯКО́Ў** Пётр Мікалаевіч [30.10(12.11).1909, г. Кастрама — 12.6.1976], рускі археолаг і гісторык. Доктар гіст. н. (1945), чл.-кар. АН СССР (1958). Скончыў Ленінградскі ун-т (1930). У 1950—53 гал. рэдактар час. «Вопросы истории». З 1951 дырэктар Ін-та славяназнаўства АН СССР, з 1959 працаваў у Ленінградскім аддзяленні Ін-та археалогіі АН СССР. Даследаваў праблемы этнагенеза і стараж. гісторыі ўсх. славян, іх сувязі з іншымі этнічнымі супольнасцямі, працэс складвання старажытнарускай народнасці. У ліку найважнейшых раскопак — гарадзішчы Беразнякі Яраслаўскай вобл., Тушамля на Смаленшчыне, стараж. паселішчы ў бас. р. Дзясны. У 1951 узначаліў Славянскую (Верхнедняпроўскую) экспедыцыю, якая пачала вывучэнне культур ранняга жалезнага веку і 1-га тыс. н. э. ў Верхнім Падняпроўі. У 1951—53 сумесна з Ю. У. Кухарэнкам і В. М. Мельнікоўскай адкрыў і абследаваў шэраг помнікаў зарубінецкай і мілаградскай культур на Гомельшчыне, правёў раскопкі гарадзішча *Чаплін* і гарадзішча-2 *Мохаў*. У 1954—60-я гг. даследаваў археал. помнікі ў Смаленскім Падняпроўі і ў Падзясенні. Зрабіў вывад, што напярэдадні н. э. ўсходнеславянскія групоўкі займа-

лі шырокія прасторы ў Сярэднім Прыдняпроўі, дзе пакінулі старажытнасці зарубінецкага тыпу. У пачатку н. э. ў выніку «перасялення народаў» іх галоўныя цэнтры перамясціліся ў паўд. і ўсх. вобласці Верхняга Падняпроўя, раней занятыя ўсходнебалцкім насельніцтвам. У сярэдзіне і трэцяй чвэрці 1-га тыс. н. э. ў Верхнім Падняпроўі разгарнуўся працэс асіміляцыі балтаў славянамі, якія мелі больш высокі ўзровень культуры і грамадскага ладу. Адначасова дняпроўскія славяне пачалі пашыраць сваю тэрыторыю на Пд у вобласці Сярэдняга Падняпроўя. У канцы 1-га



П. М. Траццякоў.



Траяк рагузанскі 1592.

тысячагоддзя н. э. яны аб'ядналіся ў саюз — «Рускую зямлю». Вобласці Падністроўя і Валыні належалі славянскім групоўкам другога паходжання (культура Карчак). Расшырыў уяўленні аб сувязях славянскіх плямён з балтамі, фінаўграмі, сармата-аланамі і інш. Удзельнічаў у падрыхтоўцы кадраў бел. археолагаў. Дзярж. прэмія СССР 1952.

*Тв.:* Восточнославянские племена. 2 изд. М., 1953; Раннеславянские поселения и могильники на территории Белоруссии // Краткие сообщения Ин-та археологии. Киев, 1955. Вып. 4; Чаплинское городище // Памятники зарубинецкой культуры. М.; Л. 1959 (Материалы и исслед. по археологии СССР; № 70); Локальные группы верхнеднепровских городищ и зарубинецкая культура // Сов. археология. 1960. № 1; Моховское второе городище // Краткие сообщения Ин-та археологии АН СССР. М., 1960. Вып. 81; Финно-угры, балты и славяне на Днепре и Волге. М.; Л., 1966; Основные итоги работ Верхнеднепровской археологической экспедиции // Древности Белоруссии. Мн., 1966; Восточные славяне и балтийский субстрат // Сов. этнография. 1967. № 4; Основные итоги и задачи изучения зарубинецких древностей // Новые данные о зарубинецкой культуре в Поднепровье. Л., 1969 (Материалы и исслед. по археологии СССР; № 160); У истоков древнерусской народности. Л., 1970 (Материалы и исслед. по археологии СССР; № 179); По следам древних славянских племён. Л., 1982.

*Літ.:* 1208 а, 1326 а, 1326 б.

*В. С. Вяргей.*

**ТРАЯ́К**, найбольш распаўсюджаная назва манеты наміналам у *тры грошы* ў пісьмовых крыніцах Беларусі, Украіны і Польшчы ў 17—18 ст.

**ТРАЯ́К РАГУЗА́НСКІ**, білонная манета-падробак пад *тры грошы* Рыжскага манетнага двара часоў Зыгмунта III Вазы [1587—1632], якую выпускала купецкая рэспубліка Рагуза (цяпер г. Дуброўнік, Югаславія). Траякі Рэчы Паспалітай (мясц. назва — бабкі польскія), спатрэбіліся Рагузе, таму што былі папулярнай манетай на рынках яе асн. гандл. партнёраў — краін Бліжняга Усходу (у Турцыі яны былі парытэтныя 6 пара і называліся артылукамі). У верасні 1675 сенат Рагузы прыняў рашэнне аб эмісіі манет, «падобных на бабкі польскія»; чаканка пачалася не раней 1592 і працягвалася каля 80 гадоў (апошняе ўпамінанне ў 1756).

Т. р. горшай якасці і ў адрозненне ад рыжскага трохграшовіка меў тонкі манетны кружок і інш. дэталі знешняга афармлення: на аверсе — іншы малюнак кароны на галаве Зыгмунта III і каўняра яго адзення; на рэверсе — паміж вывямі вежаў гар. брамы Рыгі замест галавы льва была шасціпялёсткавая галінка. На Блізкім Усходзе Т. р. стаў пашыранай дэталлю жаночых упрыгожанняў, таму меў адтуліны для падвешвання або прышывання.

*Літ.:* 1719. *В. Н. Рабцэвіч.*

**ТРОХ ЭПО́Х ТЭО́РЫЯ**, тэорыя, у адпаведнасці з якой дагіст. перыяд чалавецтва падзяляецца на каменны, бронзавы і жал. вякі. Упершыню сфармулявана К. Томсенам у 1816—19 у працэсе класіфікацыі калекцыі Дацкага нацыянальнага музея. Англійскі археолаг Дж. Лебок падзяліў каменны век на *палеаліт* і *неаліт*, пазней уведзены тэрмін *мезаліт*. У 1869—89 французскі вучоны Г. дэ Марцільс увёў падзел палеаліту на ранні, сярэдні і позні (ніжні, сярэдні і верхні). Паміж неалітам і бронзавым векам быў вылучаны медны век. Даследаванні археолагаў удакладнялі храналагічныя рамкі эпох, іх чляненне па этапах з пэўнай карэкціроўкай для канкрэтных тэрыторый. Для класіфікацыі бел. археал. матэрыялаў першым Т. э. т. выкарыстаў Ю. І. *Крашэўскі*, які выказваў думку, што паміж эпохамі не было рэзкай грані, а існавалі пераходныя перыяды. Т. э. т. была значным прагрэсам у адносінах да недыферэнцыраванай першабытнасці, яе правільнасць пацверджана данымі *стратыграфіі.*

*Г. А. Каханоўскі.*

**ТРУПАПАЛАЖЭ́ННЕ**, і н г у м а ц ы я, від пахавання. Т. ўзнікла ў мусцьерскую эпоху. На Беларусі вядома з 2-га тысячагоддзя да н. э., найб. ранняе зафіксавана ў могільніках позняга этапу *сярэднедняпроўскай культуры.* Атрымала шырокае распаўсюджанне ва ўсх. славян з канца 10 ст. ў сувязі з прыняццем хрысціянства. Гл. ў арт. *Пахавальны абрад. Г. В. Штыхаў.*



А. А. Трусаў.

**ТРУПАСПАЛЕ́ННЕ**, к р э м а ц ы я, адзін з відаў пахавання, спальванне трупаў. Узнікла ў часы позняга неаліту і ранняй бронзы. На тэр. Беларусі Т. з'явілася ў 2-м тысячагоддзі да н. э., найбольш ранняе зафіксавана ў могільніках позняга этапу *сярэднедняпроўскай культуры.* У жал. веку звычай Т. трывала зацвердзіўся ў шэрагу плямён (*мілаградская культура, зарубінецкая культура).* Да канца 10 ст. шырока распаўсюдзіўся ва ўсх. славян. З пашырэннем хрысціянства Т. паступова знікла, бо хрысціянская царква лічыла яго язычніцкім рытуалам, якія супярэчыць хрысціянскаму вучэнню аб «уваскрашэнні з мёртвых» і «замагільным жыцці». Адбыўся паступовы пераход да трупапалажэння і пахавання паводле хрысціянскіх абрадаў. Гл. таксама *Пахавальны абрад. Г. В. Штыхаў.*

**ТРУ́САЎ** Алег Анатолевіч (н. 7.8. 1954, г. Мсціслаў Магілёўскай вобл.), беларускі археолаг і гісторык архітэктуры, публіцыст. Скончыў БДУ (1976). Канд. гіст. навук




**Тры грошы.** П о л ь ш ч а: 1. Жыгімонт І Стары, 1528. В К Л: 2—4. Жыгімонт ІІ Аўгуст, 1546, 1562, 1562. Р э ч  П а с п а л і т а я. Стэфан Баторый: 5—6. Літоўская чаканка 1582, 1583; 7—8. Польская чаканка 1583, 1586; 9—10. Рыжская чаканка 1581, 1586. Зыгмунт III Ваза: 11—13. Літоўская чаканка 1593, 1593, 1596; 14—16. Польская чаканка 1588, 1598, 1601; 17—18. Рыжская чаканка 1589, 1599. 19. Уладзіслаў IV Ваза, 1635. 20. Ян ІІ Казімір Ваза, 1662. 21. Ян III Сабескі, 1684. 22. Аўгуст III, 1753. 23—24. Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, 1766, 1786. К у р л я н д ы я: 25—28. Фрыдрых і Вільгельм, 1599, 1600, 1606. Т р а н с і л ь в а н і я: 29. Габрыэль Баторый, 1609.

(1981). З 1976 супрацоўнік, з 1988 начальнік археал. аддзела Бел. рэстаўрацыйнага праектнага ін-та, з 1.10.1991 намеснік старшыні Камісіі па адукацыі, культуры і захаванні гіст. спадчыны Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Вывучае помнікі манументальнага дойлідства, матэрыяльную культуру Беларусі 11—18 ст., гісторыю буд. тэхнікі, эвалюцыю асн. тыпаў муровак і буд. матэрыялаў (цэглы, дахоўкі, плітак падлогі, каменю і кафлі) Беларусі ў 11—18 ст. Распрацаваў методыку архіт.-археал. вывучэння манументальных помнікаў Беларусі. Праводзіў раскопкі Гродзенскага (Старога), Заслаўскага, Крэўскага, Лідскага, Мазырскага, Мірскага замкаў, Барысаглебскай царквы ў Навагрудку, Благавешчанскай царквы ў Віцебску, Каложскай царквы ў Гродне, Магілёўскай ратушы, помнікаў архітэктуры Мсціслава 17—18 ст. і інш. Народны дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь з 1990.

*Тв.*: Помнікі старажытнага Мсціслава. Мн., 1985 (разам з Р. В. Баравым); Памятники монументального зодчества Белоруссии XI—XVII вв.: Архит.-археол. анализ. Мн., 1988; Беларуская кафля. Мн., 1989 (у сааўт.), Старонкі мураванай кнігі: Манум. архітэктура эпохі феадалізму і капіталізму. Мн., 1990; Страдаўніх муроў адраджэнне: Мінулае і сучаснасць Лідскага замка. Мн., 1990; Археалагічнае вывучэнне помнікаў беларускай манументальнай архітэктуры XIII—XVIII стст. // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1980. № 6; Памятник древнерусского зодчества в Гродненском детинце (у сааўт.) // Памятники культуры: Новые открытия: Ежегодник, 1987. М., 1988; Исторические и архитектурно-археологические исследования Кревского замка (разам з М. А. Ткачовым) // Вопросы архитектуры ЛитССР. Вильнюс, 1988. № 9(1); Мстиславльские изразцы // Памятники культуры: Новые открытия: Ежегодник, 1989. М., 1990.

**ТРЫ ГРОШЫ** (ням. Dütchen, Dreigroscher; польск. potrojny, trojak; патройны, траяк), манета наміналам у 3 *грошы*, якую выпускалі Польшча, Усх. Прусія (тэрыторыя, якая належала польскаму каралю), вольныя гарады Польшчы, ВКЛ, Рэч Паспалітая, Курляндыя, Сілезія, Трансільванія, Прусія (для Паўн. Прусіі і Вял. герцагства Пазнанскага ў складзе Прускага каралеўства), герцагства Варшаўскае, Каралеўства Польскае (у складзе Расійскай імперыі), Варшава (у час паўстання 1830—31), Расія (для Прусіі).

**Польшча.** Білонныя Т. г. (*лотавая проба* VI, *лігатурная маса* 6, 18 г), чаканеныя з пераплаўленых *паўгрошаў свідніцкіх*. Выпускаў Кракаўскі манетны двор у 1528. **Усх. Прусія.** Гл. ў арт. *Манеты «земляў Прускіх»*. **Вольныя гарады Польшчы.** Сярэбраныя Т. г. (проба XIV, маса 2,67 г). Выпускалі Гданьскі манетны двор у 1535—40, 1546, 1557—58 і Эльблёнгскі манетны двор у 1535—40. **ВКЛ.** Білонныя і сярэбраныя Т. г. па польскай манетнай стапе з 1546 (проба XI 1/5, маса 2,60 г), у 1562 на пераплаўленых паўгрошах свідніцкіх (проба VI, маса 6,18 г), з 1562 (проба XIV, маса 2,60 г). Выпускаў *Віленскі манетны двор* у 1546—47, 1556, 1562—66. **Рэч Паспалітая.** Білонныя і сярэбраныя Т. г. з 1579 (проба XIV, маса 2,42 г), з 1604 (проба XIII 1/2, маса 2,20 г), з 1616 (проба XIII, маса 1,88 г), з 1623 (проба VII 1/4, маса 1,99 г), з 1650 (проба XIV, маса 0,82 г.), з 1656 (проба XIV, маса 1,24 г), з 1677 (проба VI, маса 1,70 г), з 1752 (проба V, маса 2,16 г), з 1759 (проба IV, маса 1,77 г); медныя з 1765 (маса 11,69 г). Эмісіі ВКЛ выпускалі Віленскі манетны двор у 1580—86, 1589—1603, 1608, 1652, 1664—66 і *Гродзенскі манетны двор* у 1706 (манета пробная). Эмісіі Польшчы (Кароны). Агульнадзяржаўная чаканка: Быдгашчанскі манетны двор у 1594—1601, 1633, 1650, 1684, *Варшаўскі манетны двор* — 1765—94 (медзь), Кракаўскі манетны двор — 1598—1608, 1618—24, 1661—62, 1665, 1684—85, 1765—68 (медзь), Люблінскі манетны двор — 1595—1601, Мальбаркскі манетны двор — 1592—96, Олькушскі манетны двор — 1579—1601, Пазнанскі манетны двор — 1584—1601, 1654, Усхоўскі манетны двор — 1594—1601, 1616—19 (адзнакі двароў гл. ў арт. *Манетныя двары Рэчы Паспалітай*); Лейпцыгскі манетны двор — 1752—54, 1756 (адзнакі двара гл. ў арт. *Манетныя двары Саксоніі).* Гарадская чаканка: Гданьскі манетны двор — 1592, 1755, 1758, 1760—63, 1765—66, Рыжскі манетны двор — 1581—86, 1588—1601, 1619, Тарунскі манетны двор — 1764—65. **Прусія.** Гл. ў арт. *Манеты Паўднёвай Прусіі, Манеты Вялікага княства Пазнанскага.* **Герцагства Варшаўскае.** Гл. ў арт. *Манеты герцагства Варшаўскага.* **Каралеўства Польскае.** Гл. ў арт. *Манеты Каралеўства Польскага.* **Варшава.** Гл. ў арт. *Манеты мяцежныя* Каралеўства Польскага. **Расія.** Гл. ў арт. *Манеты расійскія для Прусіі.*

*Літ.*: 1671, 1682, 1695, 1735.

*В. Н. Рабцэвіч.*



**Тры рублі.** Расія: 1. Аляксандр II, 1876; 2. Аляксандр III, 1882.

**ТРЫ КАПЕЙКІ,** манета Расійскай імперыі і СССР. 1) Расійская імперыя [медзь, маса 30, 71 г (1839—48), 15, 36 г (1849—67), 9,83 г (1867—1916)].

Адзнака наміналу **3 копѣйки серебромъ.** Сузунскі манетны двор у 1839—47; Пецярбургскі манетны двор — 1840—41; Колпінскі манетны двор — 1840—43; Екацярынбургскі манетны двор — 1840—44 (адзнакі двароў гл. ў арт. *Манетныя двары Расійскай дзяржавы*); Варшаўскі манетны двор — 1848. Адзнака наміналу — **3 копѣйки.** Выпускалі Пецярбургскі манетны двор — 1849, 1867—71, 1876—84, 1891—1916; Екацярынбургскі манетны двор — 1849—76; Варшаўскі манетны двор — 1850—54, 1856—63. 2) СССР [медзь (1924—25), алюмініевая бронза (з 1926), медна-цынкавы сплаў (з 1961)].

Гл. таксама арт. *Манеты СССР*, адзнакі двароў у арт. *Манетныя двары СССР.*

*Літ.*: 1615, 1620. *М. І. Смірноў.*

**ТРЫ РУБЛІ,** манета Расійскай імперыі і СССР. 1) **Расійская імперыя** (золата, *залатніковая проба* 88, *лігатурная маса* 3,93 г).

Адзнака наміналу — **3 рубля.** Выпускаў Пецярбургскі манетны двор у 1869—85 (адзнакі двара гл. ў арт. *Манетныя двары Расійскай дзяржавы).* Адзнака наміналу — **3 рубля** / 20 zlotych (гл. *Манеты двухмоўныя*). Выпускалі *Варшаўскі манетны двор* у 1834—40 і Пецярбургскі манетны двор у 1834—41. Манета плацінавая (маса 10,35 г). Адзнака наміналу — **3 рубли на серебро.** Выпускаў Пецярбургскі манетны двор у 1828—45. **2) СССР.** Выпускаюцца з белага сплаву (з 1987) і сярэбраныя (з 1988) як мемарыяльныя (гл. ў арт. *Манеты мемарыяльныя СССР*).

*Літ.*: 1620.

**ТРЫЗНА** (адпавядае грэчаскаму слову «спаборніцтва»), у старажытных славян і інш. плямён урачыстае развітанне з нябожчыкам у выглядзе ваеннай гульні ці спаборніцтва, асабліва пры пахаванні воіна або іншага знатнага мужа; частка *пахавальнага абраду.* Адбывалася звычайна пры насыпанні кургана. Пры пахаванні знатных асоб праводзіліся не толькі ваенныя гульні, а і рэальныя баі.

На думку Б. А. Рыбакова, у Т., як і ў антычным пахавальным рытуале, гал. месца належала конскім рысталішчам (спаборніцтвам). У летапісах адзначаецца, што радзімічы, вяцічы, северане, крывічы «трызну тварылі» над памерлым да яго спалення. Пасля Т. адбывалася звычайна страва, потым, відаць, у верхняй частцы кургана палілі агонь. У «Аповесці мінулых гадоў» паведамляецца аб Т. па загаду княгіні Вольгі на магіле яе мужа кн. Ігара, пасля якой быў рытуальны баль і забойства абвінавачаных драўлян. Пасля прыняцця хрысціянства Т. доўгі час захоўвалася ў выглядзе памінальных песень, частавання.

*Літ.*: 824, 1082. *Г. В. Штыхаў.*

**ТРЫЦЦАЦЬ ГРОШАЎ,** намінальная вартасць польскіх (1663—66) і літоўскага (1666) *тымфаў*, пазна-

чаная на іх рэверсе — XXX GR [OSSUS].

**ТРЭ́БІШЧА,** гл. *Ахвярнік.*

**ТУ́РАЎ,** гарадскі пасёлак у Жыткавіцкім р-не, прыстань на р. Прыпяць. За 30 км на ПдЗ ад Жыткавіч. Аўтадарогамі звязаны з Давыд-Гарадком, Жыткавічамі, Лельчыцамі.

Д з я д з і н е ц старaж. Т. размешчаны на паўн.-зах. ускраіне гар. пасёлка, на мысе, утвораным старымі пратокамі р. Прыпяць (Струмень, Дамавуха) і балоцістай нізінай р. Язда (правы прыток Прыпяці). З паўд.-ўсх. боку адасоблены ад вакольнага горада абарончым ровам. Пляцоўка вышынёй 5—6 м над акаляючай мясцовасцю мае трохвугольную форму, доўгі час разворвалася пад агароды, таму абарончыя збудаванні дрэнна захаваліся. Абарончая сістэма ўдала спалучала прыродныя перашкоды і штучныя збудаванні. Верагодна, земляны вал праходзіў па перыметры дзядзінца (засталіся невялікія ўзвышэнні з зах. боку). У паўд.-зах. частцы пляцоўкі ёсць круглы ўзгорак, магчыма, тут на стыку валоў з ровам стаяла абарончая *Тураўская вежа.* З паўн. боку рэшткі валоў былі знішчаны пры пракладцы дарогі. Роў паміж дзядзінцам і вакольным горадам, паводле звестак мясц. жыхароў, яшчэ ў пач. 20 ст. быў пастаянна запоўнены вадой, пазней часткова засыпаны зямлёй у час земляных работ, моцна пашкоджаны ў 1970-я г. Апісанне гарадзішча Т. сустракаецца ў працах М. Гаўсмана і А. Крукоўскага. У 1889 У. З. Завітневіч абследаваў гарадзішча і апісаў яго месцазнаходжанне, знешні выгляд і захаванасць. У 1927 А. Дз. Каваленя і С. С. Шутаў заклалі шурф і знайшлі шыферныя праслíцы, фрагменты шкляных бранзалетаў, арнаментальную пласцінку і кераміку старaж.-рус. часу. У 1961 раскопкі на дзядзінцы праводзіла экспедыцыя Ін-та археалогіі АН СССР пад кіраўніцтвам В. В. Сядова, у 1962—63, 1968 — экспедыцыя Ін-та гісторыі АН БССР пад кіраўніцтвам П. Ф. Лысенкі, ускрыта 768 м². Культурны пласт да 4 м, падзяляецца на 5 стратыграфічных гарызонтаў. На дзядзінцы выяўлена 35 пабудоў, з іх 24 жылыя. Усе яны наземныя, зрубнай канструкцыі, рубленыя ў просты вугал, у асноўным з хваёвых бярвён, пад вугламі і сценамі некаторых з іх былі падкладкі. Пл. жытлаў 16—18 м², самых вялікіх каля 25 м². У 4 пабудовах захаваліся рэшткі драўлянай падлогі, пакладзенай на лагі, у адной — глінабітная падлога. Выяўлены рэшткі 10 печаў (7 глінабітных, 3 з выкарыстаннем цэглы), якія рабіліся на падушцы з




**Тры капейкі.** Р а с і я: 1—2. Мікалай І, 1827, 1849; 3. Аляксандр II, 1867; 4. Аляксандр III, 1882; 5. Мікалай II, 1916. С С С Р: 6—9. 1924, 1926, 1957, 1979.

сырой гліны, часам замацаванай дошкамі і калкамі, з 13 ст. паяўляюцца цагляныя печы. У раскопе 1962 выяўлены рэшткі 3 паграбоў. Адзін з іх памерам 2,6×2 м рублены ў просты вугал з тонкіх бярвён, заглыблены ў мацярык на 0,6—0,7 м, меў шчыльную падлогу з дошак. У ім знойдзена кераміка 10—11 ст. (пограб зроблены ў час першапачатковага засялення). Другі пограб 12—13 ст. быў абшыты дошкамі, меў драўляную падлогу і высланы бяростай.

Знойдзены рэшткі амфар з Паўн. Прычарнамор'я (магчыма, гэта быў вінны пограб). На дзядзінцы знойдзена вял. колькасць рэчаў матэрыяльнай культуры, аднак з-за неспрыяльных умоў іх захавання большасць у дрэнным стане. Сярод знаходак — інструменты і прылады працы (жал. зубіла, шыла, сярпы, абломкі сякер, долаты, ювелірныя пінцэты, тыглі для плаўкі каляровых металаў, шыферныя формачкі для адліўкі вырабаў і прасліцы і інш.), зброя (наканечнікі кап'я і стрэл, свінцовыя і жал. булавы, касцяныя дэталі складанага лука), прадметы гасп. ўжытку (жал. нажы, крэсівы, замкі і ключы да іх, абломкі спружынных нажніц, шпількі, рыбалоўныя кручкі, восці і інш.), ювелірныя вырабы (бранзалеты, пярсцёнкі, скроневыя кольцы, падвескі), абломкі бронзавага посуду, засцежкі для кніг, прадметы рэлігійнага культу. У гарызонце канца 13—14 ст. знойдзены 4 свінцовыя рэльефныя абразкі з выявамі Багародзіцы (дзевы Марыі), прападобнай Ефрасінні (?) або Анастасіі (?), велікамучаніцы (магчыма, Варвары) і свяціцеля (магчыма, Кірылы Тураўскага). Хутчэй за ўсё гэта былі ўстаўкі напрастольнага крыжа. Знойдзена шмат вырабаў з косці (праколкі і дзяржанні, упрыгожаныя цыркульным, лінейнахвалістым, стужкавым арнаментамі, накладкі, грузікі, іголкі, грабяні, лыжка, шахматныя фігуркі каня і слана, падшыпнік-порхліца, загатоўка сякеры, косці для гульні, амулеты і інш.), са шкла (абломкі бранзалетаў, посуду стараж.-рус. і замежнай вытворчасці, пярсцёнкі, а таксама шкляныя ўстаўныя вочкі ад металічных пярсцёнкаў, абломкі аконнага шкла і інш.), вырабы са скуры (ножны, кашалі, фрагменты абутку, скураной рукавіцы). Шмат знаходак ганчарнага керамічнага посуду (найб. ранні датуецца 10—11 ст.), абломкаў цэглы (з 2-й пал. 12 ст.), паліўных дэкаратыўных плітак, грузікаў для рыбалоўных сетак, падсвечнікаў. Знаходкі сведчаць пра развіццё ў Т. рамёстваў (кавальскага, ювелірнага, касцярэзнага, дрэваапрацоўчага, ганчарнага і інш.), земляробства, жывёлагадоўлі, пашыраны гандаль; насельніцтва займалася таксама паляваннем і рыбалоўствам.

Вакольны горад прылягаў да дзядзінца з паўд.-ўсх. боку, меў форму чвэрці круга (памер 100×170—180 м, пл. каля 1,5 га), аддзелены ад яго паўкруглым глыбокім ровам, які пастаянна быў запоўнены вадой да 1925, калі р. Язда была адведзена ў асушальны канал. Пляцоўка ўзвышаецца над прылеглай мясцовасцю на 5—6 м, мае стромкія здзірванелыя схілы, з паўд. боку па краі яе захавалася невысокае ўзвышша. У 1927 Каваленя і Шутаў на тэр. вакольнага горада заклалі невял. шурф, які не давялі да канца культурнага пласта. У 1961 П. А. Рапапорт ускрыў участак цаглянай сцяны. У 1962—63 М. К. Каргер на месцы шурфа ўскрыў частку пілястры і фундамент цаглянай пабудовы, даследаваў рэшткі храма 12 ст. (гл. *Тураўская царква*). На тэр. вакольнага горада планамерныя раскопкі не праводзіліся. Паводле звестак мясц. жыхароў на ўсёй пляцоўцы трапляліся фрагменты шкляных бранзалетаў, шыферныя праслiцы, стараж.-рус. кераміка. У час раскопак у храме выяўлены 3 шыферныя саркафагі, у 1909 на Барысаглебскіх могілках — шыферны саркафаг 12 ст. Вядомы т. зв. *Тураўскія крыжы*. На левым беразе р. Струмень, у паўн.-зах. частцы Т., знаходзіцца селішча, якое, як мяркуюць, было часткай горада.

Т. упершыню ўпамінаецца ў «Аповесці мінулых гадоў» пад 980, дзе сказана: «...бе бо Рогволод перешел из заморья имяше волость свою Полотьске, а Тур Турове, от него же Туровци прозвашася». Т.— адзіны горад 10 ст. на тэр. рассялення дрыгавічоў, верагодна, быў племянным цэнтрам самастойнага «княжання» напярэдадні ўключэння яго ў Кіеўскую дзяржаву ў 2-й пал. 10 ст. У канцы 1-га тысячагоддзя н. э. стаў палітычным., эканам. і культурным цэнтрам самастойнага Тураўскага княства, якое было выдзелена трэцяму сыну Уладзіміра Святаславіча — Святаполку [988—1015], які імкнуўся ўмацаваць самастойнасць Т. У гэты час у Т. ўзнікла адна з першых на Русі епіскапій на грэчаскі ўзор. У час княжання Святаполка Ізяславіча [1087—1113] яго жонка грэчаская царэўна Варвара заснавала ў Т. жаночы Варварынскі манастыр, у горадзе пры ее ўдзеле стала пашырацца грэчаская праваслаўная культура. У 1158 Т. вытрымаў жорсткую дзесяцітыднёвую аблогу войскамі кіеўскага кн. Ізяслава Давыдавіча і яго саюзнікаў, а ў 1160 трохтыднёвую аблогу валынскіх князёў. У 1180-х г. Тураўскае княства распалася на шэраг самастойных (удзельных) княстваў. У канцы 13 — пач. 14 ст. Т. вызначаўся развітым рамяством і



**Тураў** у 12—13 ст. Рэканструкцыя П. Ф. Лысенкі, мастак Я. Г. Каробушкін.



Касцяная капавушка з **Турава**. 12 ст.

гандлем. У пач. 14 ст. горад увайшоў у склад ВКЛ, у 15 ст. належаў вял. кн. Свідрыгайлу, пасля яго смерці князям Глінскім, Астрожскім. У сярэдзіне 16 ст. адышоў да каронных уладанняў у складзе Трокскага, пазней Берасцейскага ваяводстваў. У 1502 і 1521 падвяргаўся нападам крымскіх татар. Насельніцтва Т. актыўна ўдзельнічала ў антыфеад. вайне 1648—51; у 1649 горад захоплены і спалены войскамі Радзівіла, спустошаны ў час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654—67. Пасля 2-га падзелу Рэчы Паспалітай (1793) у складзе Расійскай імперыі.

*Літ.:* 233, 263, 703. *П. Ф. Лысенка.*

**ТУРАЎСКАЯ ВЕЖА,** помнік абарончага дойлідства 2-й пал. 13 — пач. 19 ст. Размяшчалася на дзядзінцы стараж. *Турава* (Жыткавіцкі р-н) і была гал. абарончым збудаваннем Тураўскага замка. Аднасіцца да тыпу валынскіх вежаў. Пабудавана з цэглы на вапнавым растворы. Паводле планаў 18—19 ст. мела форму круга дыям. 11 м. Унутры была падзелена на некалькі баявых ярусаў. Разабрана ў 1830-я г.

*Літ.:* 1200.

**ТУРАЎСКАЯ ЦАРКВА.** Пабудавана ў 12 ст. на гарадзішчы стараж. *Турава.* Разбурылася яшчэ ў старажытнасці ў выніку дэфармацыі і значнага нахілу сцен. Рэшткі царквы выявіў у час археал. раскопак 1962—63 М. К. Каргер. Сцены захаваліся на выш. ад 0,3—0,5 м да 2 м. Вынікі даследавання даюць падставу меркаваць, што гэта быў 6-слупавы 3-апсідны храм (агульныя памеры 28,2×16,5 м). Слупы ў сячэнні крыжовыя. Зах. пара слупоў злучалася з Пн і Пд сценкамі і ўтварала замкнёны аб'ём бабінца. У яго паўн.-зах. куце выяўлены рэшткі круглай вежы з вітымі ўсходамі. Сцены складзены з плінфы (4,5×18×25—26 см) на цамянцы ў тэхніцы «роўнаслаёвай муроўкі», падмурак (таўшч. 1,2 м) — з валуноў насухую. Падлога вымашчана паліванымі пліткамі. Храм не меў фрэскавай размалёўкі, знутры і звонку быў аздоблены лапаткамі. Апсіды былі ўпрыгожаны невял. плоскімі пілястрамі. У 12— 1-й пал. 13 ст., неўзабаве пасля пабудовы, царква рамантавалася: паднята падлога, закладзены праход паміж зах. слупамі, у закладцы зроблены дзверы з бабінца ў асн. аб'ём храма. Пазней да ўсх. слупоў прыбудаваны контрфорсы. У час раскопак знойдзены 3 стараж. саркафагі з шыферных пліт і унікальны каменны барэльеф з выявай лучніка.

*Літ.:* 494, 959. *А. А. Трусаў.*

**ТУРАЎСКІ КРАЯЗНАЎЧЫ МУЗЕЙ.** Адкрыты ў 1927 у г. п. Тураў Жыткавіцкага р-на, адноўлены ў 1950. У археал. калекцыі 3,8 тыс. знаходак (1991), у т. л. з гарадзішчаў, курганных могільнікаў *Бечы, Вароніна, Хільчыцы,* Тураўскага дзядзінца і інш. У экспазіцыі прылады працы з крэменю (нажы, скрэблы, разцы, сярпы), каменныя свідраваныя сякеры, фрагменты ганчарнага посуду, наканечнікі стрэл, фібулы, шпількі, шыферныя прасліцы, касцяныя іголкі, праколкі, шкляныя бранзалеты, бурштын, курыцельныя люлькі з гліны, з адзінкавых знаходак — зубы мамонта, рог тура і інш. У нумізматычнай калекцыі каля 900 манет пераважна Рускай дзяржавы і Рэчы Паспалітай 17—19 ст., найбольш стараж. турэцкая манета 14 ст.

*В. Р. Марынкіна.*



Каменны барэльеф з выявай лучніка 12—13 ст. з **Тураўскай царквы.**



М. М. **Турбін.**

**ТУРАЎСКІЯ КРЫЖЫ,** каменныя крыжы 12 ст. з Турава і навакольных вёсак (Верасніца, Пагост, Перароў, Хлупін, Старажоўцы і інш. Жыткавіцкага р-на). З'яўляюцца сімвалам веры і прадметам культавага пакланення для хрысціян. Мясц. жыхары вешалі на крыжы стужкі, лампадкі, пакрывалі іх хусткамі, ахвяравалі да падножжа крыжоў манеты, сувоі, мяса, рыбу, птушак і інш., хадзілі да іх хрэсным ходам (перш за ўсё на Узвіжанне). Паводле нар. павер'я, Т. к. прыплылі па Дняпры і Прыпяці з Кіева і абараняюць ад хвароб. Крыжоў было больш за 10 (выш. ад 1 да 2 м, шыр. 0,6—0,7 м). Найб. вядомы т. зв. Тураўскі, ці Святы, крыж (выш. 2 м, шыр. 0,7 м), які стаяў на могілках в. Пагост на беразе р. Прыпяць (з 1979 зберагаецца ў Гомельскім абл. краязнаўчым музеі). Там жа захоўваюцца 2 крыжы (выш. 1 м, шыр. 0,6 м), якія стаялі на тураўскіх Барысаглебскіх могілках. У вёсках Пагост і Верасніца над крыжамі былі пабудаваны капліцы. Некаторыя Т. к. знаходзяцца ў Тураўскай царкве.

*Літ.:* 524, 613. *Л. У. Дучыц.*

**ТУРБІН** Мікалай Мацвеевіч [4(16). 6.1832, г. Ялец Арлоўскай губ., цяпер Ліпецкай вобл.— 7(20).11. 1913], беларускі і рус. археолаг. Правадзейны чл. Маскоўскага археал. т-ва (з 1878). Генерал ад інфантэрыі (1902), з 1906 у адстаўцы. Скончыў Мікалаеўскую акадэмію Генштаба (1856). Даследаваў курганы ў Быхаўскім, Мсціслаўскім, Аршанскім пав., каля в. Дымава на Магілёўшчыне, разам з Я. П. Тышкевічам — у Барысаўскім, Мінскім, Ігуменскім пав. Праводзіў раскопкі ў Заслаўі. Арганізатар і першы старшыня Маскоўскага нумізматычнага т-ва, ганаровы чл. Т-ва вывучэння Магілёўскай губерні (з 1913). Удзельнік 1-га Міжнар. археал. з'езда (1912).

*Літ.:* 35. *Т. М. Каробушкіна.*

**ТУРЫЙСК** (Т у р ь с к), старажытны горад. Упершыню ўпамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1253. У запісе пад 1276 указана месцазнаходжанне горада: «Тоурийскъ на реце Немне». Захавалася гарадзішча Т. каля в. Турэйск Шчучынскага р-на. Займае сярэдзіну ўзвышанай грады, выцягнутай уздоўж правага берага р. Нёман. Пляцоўка памерам 35×85 м, з Пн і Пд абмежавана схіламі (паўднёвы апускаецца да поймы Нёмана, паўночны — да сучаснай вясковай вуліцы), з З і У абмежавана дугападобнымі равамі шыр. 15—25 м і глыб. да 3,5 м. Абарончыя валы на паверхні не захаваліся, з ПнЗ прасочваецца ўезд. Гарадзішча даследавалі ў 1961—62 К. Т. Кавальская і Г. І. Пех, у 1969—70 Я. Г. Звяруга. Устаноўлена, што Т. заснаваны ў канцы 11 — пач. 12 ст. як невял. крэпасць на славяна-літоўскім парубежжы. Гарадзішча было ўмацавана валам, які ад пляцоўкі аддзяляўся частаколам, паглыбленым у мацярык на 0,5—0,6 м. Жытлы былі наземныя, з печамі-каменкамі. Выяўлены рэшткі печаў-домніц (дымарак), вял. колькасць абломкаў гліняных соплаў, крыцы, шлакі. Знойдзены прылады працы для

апрацоўкі зямлі, палявання і рыбалоўства, рэчы ўзбраення воіна і рыштунак баявога каня, гасп. інвентар, упрыгожанні і прыстасаванні для гульняў. Матэрыяльная культура Т. блізкая да культур іншых гарадоў Бел. Панямоння. У 12—13 ст. горад, відавочна, уваходзіў у Гарадзенскае княства.

*Літ.:* 424, 924. *Я. Г. Звяруга.*

**ТУШАМЛІ́НСКАЯ КУЛЬТУ́РА,** археал. культура плямён, якія ў 4—7 ст. н. э. жылі ў Смаленскім Падняпроўі і Падзвінні, на У Беларусі. Развілася на аснове культуры больш ранніх днепрадзвінскіх плямён рубяжа і першых вякоў н. э. ных слупоў. У цэнтры высокі слуп, верагодна, быў з выявай галоўнага бажаства. Пахавальны абрад — трупаспаленне ў урнах або без іх, у грунтовых акруглых ямах. Знойдзены гліняны таўстасценны і слабапрафіляваны посуд высокіх прапорцый. Частка пасудзін са слядамі грубага глянцавання. Шмат глiняных біканічных праслiц. Для культуры характэрны шматлікія жал. прылады працы: сярпы розных форм з кручком, сякеры з вузкім лязом, нажы з прамой спінкай, цуглі, трохгранныя наканечнікі стрэл, лістападобныя наканечнікі коп'яў і інш. Тушамлінскія плямёны былі на стадыі пераходу ад радавой абшчыны да тэрытарыяльнай сельскай. Найб. даследаваны гарадзішчы-сховішчы Акатава, Гарадок, Дзямідаўка, Слабада-Глушыца, Тушамля; селішчы Заазер'е, Кіслая, Купрына, Вусце, могільнік Акатава і інш. На Беларусі — гарадзішча-сховішча *Нікадзімава*, гарадзішча і селішча *Княжыцы*. Помнікі Усх. Беларусі вывучаны недастаткова, таму няма падставы да ўстанаўлення межаў Т. к. на З.

*Літ.:* 1212. *А. А. Седзін.*



Фібулы (1, 3), пятля (2), упрыгожанне ручкі (4), накладкі (5, 7), пярсцёнкі (6, 9, 10), бранзалеты (8, 12), кольца (11), іголкі (13, 14), бразготкі (15) з Турыйска.

Большасць даследчыкаў лічыць, што Т. к. адносіцца да балцкага этнічнага масіву. Культура вылучана П. М. *Траццяковым* і названа па найб. вывучаным помніку (гарадзішча-сховішча Тушамля). Асн. даследчыкі культуры — П. М. Траццякоў і Я. А. Шміт. Насельніцтва займалася земляробствам, жывёлагадоўляй; паляванне, рыбалоўства, збіральніцтва мелі дапаможны характар; былі развіты кавальская справа, здабыча і апрацоўка жалеза, каляровых металаў. Жыло ў селішчах, гарадзішчах-сховішчах. На селішчах жытлы слупавой канструкцыі, спачатку доўгія, з сярэдзіны 1-га тысячагоддзя н. э.— чатырохвугольныя, плошчай 15—20 м². На гарадзішчах-сховішчах — доўгія наземныя жытлы слупавой канструкцыі, падзелены на асобныя памяшканні. У мысавай частцы сховішча знаходзілася свяцілішча з вертыкальна пастаўленых драўля-



Гаршкі (1, 6, 7), слоікападобныя пасудзіны (2—4, 10, 11, 13, 15), мініяцюрная пасудзіна (5), крамянёвыя сярпы (8, 9), міска (12), рэшткі пасудзіны (14) тшцінецкай культуры. Прыпяцкае Палессе Беларусі.

**ТШЦІНЕ́ЦКАЯ КУЛЬТУ́РА,** археал. культура сярэдняга перыяду бронзавага веку. Датуецца 15—11 ст. да н. э. Назва ад могільніка каля Тшцінца Пулаўскага пав. (Польшча). Тэрмін увёў у 1930 Ю. Кастшэўскі, найб. поўнае апісанне зрабіў у 1959 А. Гардаўскі. Распаўсюджана на тэр. Усх. Польшчы, зах. Украіны і паўд. раёнаў

Беларусі. Асн. занятак насельніцтва — земляробства і жывёлагадоўля. Плямёны жылі на паселішчах, размешчаных на пясчаных узвышшах каля берагоў рэк. Жытлы — зямлянкі, а таксама наземныя пабудовы слупавой канструкцыі. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на баку ў скурчаным становішчы ў курганных і грунтавых могільніках. Зрэдку сустракаюцца пахаванні з рэшткамі трупаспалення, пахавальнага агнішча. Кераміка Т. к. прадстаўлена гаршкамі з патоўшчаным і косазрэзаным венчыкам, глыбокімі міскамі, кубкамі, сіта- і вазападобнымі пасудзінамі. У арнаментаванні посуду выкарыстоўваліся пракрэсленыя гарызантальныя лініі ў верхняй яго частцы, паралельныя лукаткападобныя стужкі, дугападобныя і косыя пракрэсленыя лініі, участкі наколаў розных форм, ружанцавы, вусеневы і шнуравы арнамент, насечкі, наляпныя круглыя выпукліны, валікі і інш. Сярод металічных вырабаў — бронзавыя кінжалы, бранзалеты, шпількі, падвескі, каменных і крамянёвых — сякеры, наканечнікі стрэл, скрабкі і інш. На З Бел. Палесся сляды Т. к. трапляюцца на стаянках *Здзітаў, Камень*, Хомск (Іванаўскі р-н), Востраў, Гарнавое, Грыўковічы-1, Сошна (Пінскі р-н). Помнікі з характэрнымі для Т. к. знаходкамі сустракаюцца ў басейне Нёмана. Каля в. *Прылукі* знойдзены тшцінецкі грунтавы могільнік з абрадам трупаспалення. На тэр. Польшчы помнікі Т. к. датуюцца 1450—1200 г. да н. э., вылучаны любінскі, апатоўскі, люблінскі і падляска-мазавецкі варыянты культуры. С. С. Беразанская атаясамлівала помнікі Бел. Палесся з т. зв. усх.-тшцінецкай культурай, паўн. мяжа якой, на думку даследчыцы, праходзіла па Прыпяцкім Палессі Беларусі, а заходняя — па р. Зах. Буг. Для яе характэрны высокія стройныя цюльпанападобныя пасудзіны з маленькім няўстойлівым дном і слабаадагнутым венчыкам. Арнаментацыя складаецца з пракрэсленых ліній, рысак, трохвугольнікаў, радзей з наколаў «жамчужын», наляпных валікаў, ружанцавых адбіткаў. Слоікавы посуд меў звужаную шыйку з кароткім адагнутым вонкі венчыкам, шырокае дно і ўпрыгожваўся пад венчыкам наколамі. Часта сустракаюцца паўсферычныя, канічныя і шлемападобныя міскі, кубкі, чашы. Выкарыстоўваліся таксама пасудзіны са скразнымі адтулінамі, канічныя накрыўкі, гліняныя лыжкі, праслíцы, у т. л. «рагатыя». Пры вырабе глінянага посуду выкарыстоўвалася жарства. Посуд ангабіраваўся вадкім растворам гліны. Сярод прылад крамянёвыя сярпы, сэрцападобныя, лістападобныя і трохвугольныя тронкавыя наканечнікі стрэлаў, коп'яў, сякеры. Большасць бронзавых вырабаў тыпалагічна блізкія да знаходак карпацкага басейна. У межах Бел. Палесся найб. канцэнтрацыя помнікаў выяўлена ў нізоўях Гарыні, на берагах Прыпяці, на Тураўшчыне. На Прыпяцкім Бел. Палессі ў адрозненне ад Паўн. Украіны вырабляўся посуд з многазанальным аздабленнем, шырокім выкарыстаннем зон наколаў, насечак, ружанцавых адбіткаў, у паўн. раёнах — зубчастага, вусеневага, зрэдку пракрэсленага арнаменту.



**Тыгель.** Гродна.



Паўгрош літоўскі **Тыкоцінскага манетнага двара.**

Кераміка зах. часткі Бел. Палесся мае многія рысы падабенства з тшцінецкімі знаходкамі Польшчы (найбольш з падляска-мазавецкім варыянтам) і зах.-валынскімі Украіны. Т. к. ў Польшчы, а таксама ўсх.-тшцінецкая і *камароўская культура* складалі адзіную культурную, магчыма, і этнічную супольнасць.

*Літ.:* 126, 454, 847.

*М. М. Крывальцэвіч.*

**ТЫГЕЛЬ** (ням. Tiegel), гліняная пасудзіна для выплаўкі бронзы, волава, свінцу, шкла. На Беларусі выкарыстоўваўся ў бронзаліцейнай вытворчасці з ранняга жал. веку. Меў форму конуса, звужанага ў бок донца (завостранага, круглаватага або плоскага) і расшыранага ў верхняй часткі (круглай, радзей трохвугольнай у плане). Выш. 6—8 см, дыям. донца 2,5—3 см, венчыка 4—4,7 см, таўшч. сценак 1—1,6 см. Знойдзены цэлыя Т. і іх фрагменты на помніках мілаградскай, зарубінецкай, днепрадзвінскай культур, культуры штрыхаванай керамікі, на паселішчах 1-га тысячагоддзя н. э. *(Калочын, Таймонава, Хатомель, Банцараўшчына)*, помніках эпохі Кіеўскай Русі (Брэст, Віцебск, Гомель, Гродна, Мінск, Орша, Полацк, Слуцк, Тураў).

*Літ.:* 772, 785, 847, 903, 1313.

*М. І. Лашанкоў.*

**ТЫКО́ЦІНСКІ МАНЕ́ТНЫ ДВОР.** Дзейнічаў у 1566 у г. Тыкоцін (Польшча). Чаканіў *паўгрош літоўскі* і *грош літоўскі.* Адметная адзнака гэтых манет — герб «Ястжэмбец» (падкова рожкамі ўверх, унутры яе — роўнаканцовы крыжык), які належаў *падскарбію* Яну Лютамірскаму, змешчаны на *аверсе* пад гербам ВКЛ («Пагоня»).

**ТЫМФ-МАЛА́Я ГАЛО́ЎКА** (польск. **mała główka**), назва ў афіцыйных дакументах Рэчы Паспалітай 2-й пал. 1750—60-х г. сярэбранай манеты тымф *(орт)*, чаканенай Лейпцыгскім манетным дваром у 1752—53, 1755 (*лотавая проба* V, *лігатурная маса* 5,84 г). На *аверсе* — профільны ўправа партрэт Аўгуста III, кругавая тытулатурная легенда; на *рэверсе* — геральдычны шчыт з гербамі Рэчы Паспалітай і Саксоніі, працяг легенды аверса і літара Т (ymf) пад шчытом. Назву атрымаў з-за меншых памераў партрэтнай выявы караля, чым на тымфах 1753—56, у якіх і пад гербавым шчытом была лічбавая адзнака наміналу — 18 (грошаў).

*Літ.:* 1671, 1735.

**ТЫМФ-ПАДКО́ЎКА,** назва ў пісьмовых дакументах Магілёва 1760—70-х г., верагодна, *тымфа* 1663—66. На *аверсе* манеты — манаграма (на лацінскай мове) — ICR (Ян Казімір кароль), у якой літара С нагадвае падкоўку.

**ТЫНКО́ЎКА,** слой тынку на паверхні канструкцыйных элементаў і частак будынкаў. Тынк — аддзелачная рошчына з сумесі вяжучых рэчываў (вапна, гіпс, гліна, цэгла, мармур, цэмент, пясок, вада і інш.). Вядома з часоў стараж. Егіпта. На Беларусі Т. вядома з жал. веку, калі сцены жытлаў абмазвалі глінай (гарадзішчы *Вязынка, Малышкі*). У 12 ст. для аддзелкі фасадаў *Віцебскай царквы Звеставання* і інш. пабудоў выкарыстоўвалася спец. дэкар. абмазка-тынкоўка. У канцы 15—1-й пал. 16 ст. Т. апрацоўвалі толькі асобныя элементы фасадаў: нішы, часткі шчытоў, франтонаў (Мірскі замак, царква ў в. Мураванка Шчучынскага р-на). З 2-й пал. 16 ст.— 17 ст. Т. пакрывалі ўвесь фасад будынка, шырока ўжывалі ў інтэр'ерах. На фасадах будынкаў

Т. імітавалася рустоўка, фактурнай Т. вылучаліся філёнгі (палац Тызенгаўза ў Гродне). Акрамя звычайнага роўнага і гладкага тынку сустракаецца і дэкаратыўны (штучны мармур, сграфіта). Зверху Т. часта пакрывалі вапнавымі бялiламі, зацёртымі з мінеральнымі і некаторымі арганічнымі пігментамі — чырвоная і жоўтая вохра, свінцовы сурык, драўняны вугаль, кавальскі лак і інш. Часам пігменты ўводзілі ў састаў тынку.

*А. А. Трусаў, М. М. Цэйтліна.*

**ТЫНФ, ТЫМФ** (польск. tymf, рус. тинф), 1) непаўнавартасная сярэбраная манета Рэчы Паспалітай 2-й пал. 17—1-й пал. 18 ст. ***намінальнай вартасцю*** ў 30 ***грошаў***. Назва паходзіць ад прозвішча арандатара манетных двароў А. Тынфа, ініцыялы якога ставілі на ***рэверсе*** Т. У афіцыйных дакументах называецца — орт злотавы, орт тымфавы, штука злотавая. Рэальная вартасць Т. па серабру (***лотавая проба*** VIII, ***лігатурная маса*** 6,73 г, дыям. 31 мм) ардынацыі 1650 складала 41 % намінальнай вартасці, ардынацыі 1656—47 %, 1658—52 %, 1663 — прадугледжвалася 45 %.

На аверсе Т. польскага — каралеўская манаграма, двухрадковая кругавая легенда; на рэверсе — чатырохдольны геральдычны шчыт з гербамі ВКЛ, Польшчы і рода Вазаў, кругавая легенда і ў парушэнне геральдычных правіл упісаны намінал — **xxx /cro/pol**. Аверс Т. літоўскага такі ж, як у польскага; на рэверсе — герб ВКЛ («Пагоня»), кругавая легенда; адзнака наміналу — **xxx/pol**. Усяго эмітавана 7,5 млн. Т. на Быдгашчанскім (манеты вызначаюцца раздзяляльнымі знакамі ў легендзе — кропкі), Кракаўскім і Львоўскім (раздзяляльныя знакі — ромбікі) манетных дварах. Сыравінай для вырабу Т. на Львоўскім двары служылі розных гадоў і краін талеры (5 %), орты (24 %), шастакі (48 %), траякі, паўтаракі (23 %), дацкія маркі і васьміскілінгавікі.

У 2-й пал. 1660-х г. рыначны курс Т. стаў роўны ***орту*** — 18 ***грошам***, у медных ***солідах*** 1659—66, у 1688—32, у 1692—32,5, 1697—33, па ардынацыі 1717 — 38 грошам. У 1752—56 на Лейпцыгскім манетным двары выраблялі каронныя орты Аўгуста III Фрыдрыха, якія ў 1752—53 на частцы манет замест адзнакі наміналу (18) мелі літару T (проба IV $^{1}/_{2}$, маса 5,84 г) на рэверсе.

На аверсе ортаў-Т.— партрэтная выява Аўгуста III; на рэверсе — чатырохдольны геральдычны круглы шчыт з гербамі ВКЛ і Польшчы (Кароны), усярэдзіне якога двухдольны шчыт з гербам курфюрства Саксонія.

Паводле ***грашовай рэформы Станіслава Аўгуста Панятоўскага*** з 1766 Т.-орт Аўгуста III выкупляўся за 27 новых медных грошаў, Т. Яна II Казіміра [1649—68] — за 30, у выніку чаго насельніцтва губляла ў чыстым серабры да 25 %. У канцы 17—1-й пал. 18 ст. ў Рэчы Паспалітай, Каралеўстве Прусіі, Расійскай дзяржаве назва Т. перайшла на орты. У 17—18 ст. на тэр. Беларусі вядомы таксама ***тымф-падкоўка, тымф-малая галоўка.***

Існуюць антыкварныя падробкі сярэдзіны 19 ст. пад Т. 1665 і 1668 (маса 8,4—9,7 г, дыям. 34 мм) з адзнакай AT: на аверсе — партрэтная выява Яна II Казіміра з каронай або лаўровым вянком на галаве, кругавая легенда; на рэверсе — герб Каралеўства Польскага, кругавая легенда.

2) Руская білонная манета. Выпушчана для забеспячэння плацежаздольнасці арміі Пятра I на тэр. Беларусі, Украіны, Польшчы і Прусіі ў час Паўн. вайны 1700—21. Замест афіцыйна ўстаноўленых ***залатніковай пробы*** 48 (***метрычная проба*** 500) і ***лігатурнай масы*** 6,40 г манетныя двары чаканілі Т. ніжэйшых пробы (метрычная да 340) і масы 6,08—6,09 г. У 1710 рэвізія манетных двароў, зробленая паводле ўказання Пятра I Сенатам, выявіла, што краснадворскія Т. якасна саступалі кадашаўскім. Рыначны курс абарачэння — 12 ***капеек***. Выпускалася таксама фракцыя Т.— ***шастак***. Эталон для чаканкі Т., падрыхтаваны да 15.7.1706, зроблены па тыпу 3эхстэльталера ($^{1}/_{6}$ ***талера***) Саксоніі.



**Тынф.** Рэч Паспалітая: Ян II Казімір Ваза. 1. Літоўскі 1666; 2. Польскі 1663.

На ***аверсе*** — бюст Пятра I (управа), увянчаны лаўровым вянком; кругавая легенда — **ц[а]рь і в[еликий] к[нязь] петръ алеѯіевічъ.** На ***рэверсе*** — увянчаны 3 (2 малыя і 1 вялікая) каронамі двухгаловы арол, які ў правай лапе трымае скіпетр, у левай — дзяржаву (сімвалы ўлады); кругавая легенда — **всеа россіи повелітель** і дата чаканкі. Выпускалі Кадашаўскі манетны двор у 1707—09, Красны манетны двор — 1707—08 (адзнакі двароў гл. ў арт. ***Манетныя двары Расійскай дзяржавы***). Асноўныя асаблівасці кадашаўскіх Т.: дата выпуску 1707 пазначана кірыліцай (ҰАѰЗ) або арабскімі лічбамі, 1708—09 — толькі лічбамі; на рэверсе над скіпетрам і дзяржавай ініцыялы ***мінцмайстра*** — I—I або Ꙇ — L (гл. ў арт. ***Ініцыялы службовых асоб манетных двароў Расійскай дзяржавы***); на некаторых манетах 1707 у абрэзе правага пляча Пятра I змешчаны ініцыял гравёра — G (гл. ў арт. ***Ініцыялы гравёраў***); на адным з экз. 1707 кірылічная дата не ў канцы рэверснай легенды, а ў полі манеты пад ініцыяламі I — L (ҰАѰ—З); частае выкарыстанне ў чаканцы 1708—09 старых штэмпеляў з пераграваравнымі лічбамі дат (7 на 8, 8 на 9). На краснадворскіх Т. няма ініцыялаў мінцмайстра, дата выпуску 1707 пададзена кірыліцай, 1708 — арабскімі лічбамі. Апрабацыя Т. была праведзена на рынках Польшчы ў чэрвені, 1-я буйная партыя (83 333 экз.) адпраўлена ў кастрычніку 1707 у дзейную армію (г. Беласток). Даных пра тыраж манеты няма, вядома толькі, што ў 1708 Кадашаўскі манетны двор за 2 прыёмы адчаканіў 181 665 Т.

Вытворчасць манет спынена ў канцы чэрвеня — пач. ліпеня 1709. На тэр. Беларусі знойдзены 3 экз. Т.: 1707 Кадашаўскага манетнага двара (Магілёў), Т. 1708 нявызначанага манетнага двара (в. Гляднеевічы Ваўкавыскага р-на), Т. 1708 Кадашаўскага манетнага двара (каля Оршы). Вядомы навадзельныя Т. (гл. ***Манета-навадзел***) з датай 1708, выпушчаныя ў 19 ст.

*Літ.:* 1574, 1587, 1588, 1620, 1633, 1684, 1709, 1720, 1723, 1725, 1735, 1752. *В. Н. Рабцэвіч, І. І. Сінчук.*

**ТЫПАЛО́ГІЯ** (грэч. typos адбітак, узор, тып + logos навука) у ***археалогіі***, навука пра тыпы старажытнасцей, артэфактаў, прыкметы іх формы і апрацоўкі, правілы апісання і супастаўлення. Тып (адбітак, вобраз, узор) з'яўляецца абагульненым уяўленнем пра групу канкрэтных рэчаў, мадэллю, абагуленым вобразам аднастайных па выгляду, форме, памерах, матэрыялу, апрацоўцы, прызначэнню

артэфактаў, устойлівым спалучэннем сукупнасці прыкмет. Таму вылучэнне тыпу апіраецца на загадзя распрацаваную наменклатуру (спіс) дэталей формы, прыёмаў апрацоўкі і адбываецца ў выніку шматлікіх назіранняў за дастаткова вял. серыямі аднастайных вырабаў, г. зн. статыстычным метадам. Тыповасць тых ці іншых прадметаў, з'яў, элементаў комплексу для культуры на практыцы вызначаецца толькі ў тым выпадку, калі яны сустракаюцца серыяй не менш чым з трох экземпляраў у адным комплексе або тройчы ў аднакультурных, аднастадыйных комплексах. Падлікі працэнтнай долі тыпаў, якія ўваходзяць у адзін комплекс рэчаў ці культуру, і дапушчальнай пры гэтым памылкі ажыццяўляюцца з дапамогай *выбарачнага метаду*. Тыпы аб'ядноўваюцца ў групы, катэгорыі, класы. Вызначэнне іерархіі тыпаў праводзіцца на аснове метадаў фармальнай логікі. Пры вывучэнні археал. культуры звычайна складаюць «тыпаліст» — табліцы малюнкаў з назвамі і кароткім апісаннем тыповых вырабаў (крамянёвых, рагавых, металічных прылад працы, форм посуду, арнаментацыі, упрыгожанняў, жытлаў, пахаванняў і інш.). Пасля вылучэння і падліку працэнтнай долі тыпаў магчыма параўнанне паміж сабой комплексаў, варыянтаў, стадый пэўных археал. культур (гл. *Параўнальна-тыпалагічны метад*) і вызначэння ступені іх падабенства шляхам падліку каэфіцыентаў падабенства.

*Літ.:* 3, 748, 798. *У. Ф. Ісаенка.*

**ТЫПО́ВАЙ ГРАБЕ́НЬЧАТА-ЯМКАВАЙ КЕРА́МІКІ КУЛЬТУ́РА,** археал. культура неалітычных плямён, якія ў 2-й пал. 3-га тысячагоддзя да н. э. жылі на тэр. паўд.-ўсх. Прыбалтыкі і паўн. Беларусі. Насельніцтва займалася паляваннем, рыбалоўствам, збіральніцтвам. Мела наземныя жытлы, што размяшчаліся па берагах азёр і невял. рэчак. Сярод крамянёвых вырабаў найб. характэрныя — кароткія наканечнікі стрэл вербалістай або рамбічнай формы і дзіды з двухбаковай рэтушшу, а таксама нажы, скрабкі, разцы і іншыя касцяныя і рагавыя прылады. Характэрнай адзнакай гэтай культуры з'яўляюцца вялікія з круглаватым донцам гаршкі з дамешкамі жарствы ў тоўстых і добра абпаленых сценках, арнаментаваныя гарызантальнымі паясамі з глыбокіх круглых ямак і адбіткаў шыраказубага грэбеня, якія ўтваралі рамбічныя ўзоры. У канцы неаліту плямёны гэтай культуры змяшаліся з носьбітамі *нарвенскай культуры*. На тэр. Беларусі найб. значныя помнікі: *Скема*, паселішчы на р. Свольна, воз. Бярэшча.

*Літ.:* 119, 1305. *М. М. Чарняўскі.*

**ТЫШКЕ́ВІЧ** Канстанцін Піевіч [5(17).2.1806, г. п. Лагойск — 1(13).7.1868], беларускі археолаг, гісторык, этнограф, фалькларыст. Чл. Маскоўскага археал. т-ва (1864). Брат Я. П. *Тышкевіча.* Скончыў Віленскі ун-т (1828). У 1828—36 працаваў у міністэрстве фінансаў у Варшаве. Удзельнік паўстання 1830—31. З 1836 жыў у Лагойску, дзе разам з братам у 1842 заснаваў першы на Беларусі музей старажытнасцей, у які сабраў архіў стараж. рукапісаў, калекцыю мастацкіх твораў, унікальную бібліятэку. Адзін з заснавальнікаў *Віленскага музея старажытнасцей*, чл. *Віленскай археалагічнай камісіі.* Вынікі сваіх даследаванняў публікаваў у польскім штотыднёвіку «Przyjaciel Ludu» («Прыяцель народа», г. Лешна, 1843. Т. 1, № 21—26. С. 18—40). У 1856 арганізаваў экспедыцыю па Віліі, дзе сабраў багаты этнаграфічны, фальклорны і археал. матэрыял. Даследаваў каля 200 курганоў, гарадзішчаў і замчышчаў Мінскай губ. Склаў першыя тапаграфічныя карты гарадзішчаў і замчышчаў (Заслаўе, Чашнікі, Ула, Лагойск, Баравы Млынок і інш.), атлас стараж. гарадзішчаў. Даследаваў курганы крывічоў і дрыгавічоў (каля Барысава, Лагойска і інш.). Курганы лічыў старадаўнімі пахаваннямі, а гарадзішчы месцамі, дзе выконваліся розныя абрады. Першы класіфікаваў знаходкі па тэхніцы і матэрыялах выканання і звёў іх у табліцы. У 1856 арганізаваў экспедыцыю па Віліі, вынікам якой стала краязнаўчая манаграфія «Вілія і яе берагі» (Дрэздэн, 1871). Адзін раздзел кнігі «Пра курганы ў Літве і Заходняй Русі» (перавыданне 1868, Берлін; на польскай мове) прысвечаны знаходкам стараж. пісьменнасці славян-яцвягаў, знойдзеным у 1864 у р. Буг каля г. Драгічына мясц. жыхаром Амбражэўскім. Гэта былі пломбы са слав. літарамі, відаць, гандл. пячаткі 10—14 ст., у выглядзе свінцовых пласцінак круглаватай формы рознай велічыні ад 5,6 да 10 мм (20 штук). Пра археал. знаходкі Т. пісаў у газ. «Новое время», якая выдавалася А. Кіркорам у Пецярбургу ў 1868—71.

*Тв.:* О курганах в Литве и Западной Руси. Вильна, 1865; Wiadomość historyczna o zamkach, horodyszczach i okopiskach starożytnych na Litwie i Rusi Litewskiej. Wilno, 1859; Wilija i jej brzegi. Drezno, 1871; Über die heidnisehen Gräber des Russisch — Liteauens. Dorpat, 1870.



К. П. **Тышкевіч.**



Я. П. **Тышкевіч.**

*Літ.:* 20, 44, 491, 513, 518, 519.
*С. А. Акуліч, Г. А. Каханоўскі.*

**ТЫШКЕ́ВІЧ** Яўстафій Піевіч [6(18).4.1814, г. п. Лагойск — 27.8(8.9).1873], беларускі археолаг, гісторык, этнограф, краязнавец, фалькларыст; адзін з заснавальнікаў бел. навук. археалогіі. Ганаровы чл. Пецярбургскай і Стакгольмскай АН, Лонданскага археал. ін-та. Брат К. П. *Тышкевіча.* Скончыў Мінскую гімназію (1831). З 1933 на службе ў канцылярыі Віленскага, потым Кракаўскага генерал-губернатара. З 1840 ганаровы апякун школ Барысаўскага пав. З 1842 у адстаўцы. У 1848—54 куратар Мінскай гімназіі. У 1843 з мэтай археал. і гіст. даследаванняў наведаў Данію, Швецыю, Фінляндыю. У 1847 чл. часовай камісіі па зборы і выданні стараж. актаў, грамат і прывілеяў 16—18 ст. гарадоў Мінскай губ. У 1855 заснаваў *Віленскі музей старажытнасцей*, якому перадаў калекцыі ўласных збораў. Арганізаваў і ўзначаліў *Віленскую археалагічную камісію.* Даследаваў пахавальны інвентар крывіцкіх курганоў і першы ўказаў на іх асаблівасць — скроневыя кольцы ў жанчын. Вывучаў гарадзішчы, замчышчы ў Мінску, Слуцку, Друцку,

Заслаўі, Лідзе, Крэве, Гальшанах, Міры. У сваёй археал. дзейнасці пераймаў вопыт вучоных Зах. Еўропы. Стварыў альбом, прысвечаны роду Тышкевічаў. Пасля паўстання 1863 вызвалены ад усіх пасад. Аўтар кніг «Погляд на крыніцы мясцовай археалогіі, або апісанне некаторых помнікаў старажытнасцей у Заходніх губернях Рускай дзяржавы» (1842), «Апісанне Барысаўскага павета» (1847), аповесці «Нашы краі» (1871, усе на польскай мове), успамінаў пра В. Ваньковіча, Я. Рустэма, І. Ходзьку і інш.

*Тв.:* Rzut oka na źródła archeologii krajowej... Wilno, 1842; Opisanie powiatu Borysowskiego pod względem statystycznym, geognostycznym, historycznym, gospodarczym, przemysłowo — handlowym i lekarskim. Wilno, 1847; Listy o Szwecji. T. 1—2. Wilno, 1846; Badania archeologiczne nad zabytkami przedmiotow sztuki rzemiosł i t. d. w dawnej Litwie i Rusi Litewskej. Wilno, 1850; Nasze strony. Kraków, 1871; Archeologia na Litwie. Kraków, 1872.

*Літ.:* 44, 491а, 500, 513, 518, 1446.

*С. А. Акуліч, Г. А. Каханоўскі.*

**«ТЭЗІСЫ ДАКЛА́ДАЎ ДА КАНФЕРЭ́НЦЫІ ПА АРХЕАЛО́ГІІ БЕЛАРУ́СІ»,** зборнік дакладаў да канферэнцыі, якая адбылася ў Мінску ў 1970. Выдадзены Ін-там гісторыі АН БССР у 1969 у Мінску на рус. мове. Прысвечаны археалогіі і стараж. гісторыі Беларусі.

Змешчаны даклады пра вынікі раскопак Бердыжскай стаянкі (У. Дз. Будзько, Л. М. Вазнячук), пераход стараж. насельніцтва Беларусі да вытворчай гаспадаркі (У. Ф. Ісаенка), неаліт Бел. Панямоння і пахаванні бронзавага веку каля в. Куранец Вілейскага р-на (М. М. Чарняўскі), гарадзішчы і пахаванні ранняга жал. веку (А. Р. Мітрафанаў, М. А. Ткачоў, Л. Д. Побаль, В. Б. Нікіціна), відавы склад свойскіх і дзікіх жывёл на гарадзішчах (В. В. Шчаглова), вывучэнне гарадоў Лагойск, Віцебск, Заслаўе (Г. В. Штыхаў), Ваўкавыск (Я. Г. Звяруга), косці птушкі з раскопак Ваўкавыска (М. І. Бурнак-Абрамовіч).

*Г. В. Штыхаў.*

**ТЭКСТЫ́ЛЬНАЙ КЕРА́МІКІ КУЛЬТУ́РА,** гл. *Дзякоўская культура.*

**ТЭРНА́РЫЙ,** т э р н а р (лац. ternarius, польск. ternar, trzeciak), білонная польская манета, парытэтная 3 *дэнарыям польскім*, $^{1}/_{3}$ шэляга або $^{1}/_{6}$ *гроша польскага.* З 1398 — *лотавая проба* V $^{1}/_{2}$, *лігатурная маса* 0,72 г; з 1527 — проба III, маса 0,56—0,57 г; з 1580 — проба II $^{3}/_{5}$, маса 0,55 г; з 1623 — проба II, маса 0,32—0,33 г.

Выпускалі Кракаўскі манетны двор у 1398—1403, 1527—29, 1546, 1601, 1616—22; Усхоўскі манетны двор — 1591; Мальбаркскі манетны двор — 1529—99; Пазнанскі манетны двор — 1597, 1602—20 (агульнадзяржаўная чаканка), 1624—27 (гар. чаканка); Гданьскі манетны двор — 1613, 1616; Лабжаніцкі манетны двор — 1623—28, 1630 (магчыма, 1584—1601). Адзнакі манетных двароў гл. ў арт. *Манетныя двары Рэчы Паспалітай.*

*Літ.:* 1668, 1715, 1735. *В. Н. Рабцэвіч.*

**ТЭ́ХНІКА МАНЕ́ТНАЙ СПРА́ВЫ.** Працэс вырабу манеты пачынаецца з падрыхтоўкі металу з адпаведнымі механічнымі якасцямі і зададзенай пробай. На *плавільні* манетнага двара вялася ачыстка металаў і падрыхтоўка сплаваў, якія пры вырабе літай манеты адразу разлівалі ў манетныя формы (Ольвія 6—4 ст. да н. э., некаторыя манеты стараж. і імператарскага Рыма, Кітай).

У антычнасці манетныя загатоўкі для штампоўкі рабілі ліццём. У такой жа тэхніцы зроблены кружкі стараж.-рус. *златнікаў* і *срэбранікаў* 10—11 ст. У пазнейшыя часы метал разлівалі па зложніцах, потым падоўжаны злітак (нямецкамоўная назва «цан») раскоўвалі ці пракатвалі (з 14 ст., цягнулі праз гладкія вальцы) з мэтай атрымання бляхі неабходнай таўшчыні для вырубкі прабойнікам ці выразання нажніцамі манетных загатовак. Выкарыстоўвалася таксама валачэнне дроту з наступным сячэннем яго на кавалкі і сплюшчваннем у манетныя загатоўкі (тэхніка, уласцівая ардынскім, генуэзска-крымскім, ВКЛ у 15 ст., рускім удзельным, велікакняжацкім і царскім манетам да пач. 18 ст.). На манетную пласцінку з дапамогаю *штэмпеля* наносілі вывявы і *легенды.* У стараж. Грэцыі для вырабу манет выкарыстоўвалі толькі адзін штэмпель-форму (знізу) з вывявамі, удар па загатоўцы зверху рабіўся з дапамогай чакана з гладкім або рыфленым (простага малюнка) боем з квадратным байком, памеры якога былі звычайна меншыя за манету. У Грэцыі ў 1-й пал. 6—2-й пал. 5 ст. да н. э. выкарыстоўвалі фігурныя верхнія чаканы-штэмпелі, рэльефныя вывявы якіх дакладна супадалі з вывявамі ніжняга штэмпеля, але былі адваротныя яму (прамыя і нелюстраныя), што забяспечвала якаснае запаўненне працоўных ручаёў ніжняга штэмпеля. Манеты, зробленыя з дапамогаю такога прыёму, атрымалі назву ўціснутых манет або nummi incusi. Пазней пачалі выкарыстоўваць штэмпельныя пары з люстранымі заглыбленымі вывявамі, якія давалі рэльефны адбітак з абодвух бакоў манеты. Выкарыстанне сферычных ці бобападобных манетных загатовак, падагрэтых для павелічэння пластычнасці, дазваляла атрымліваць вял. вышыню рэльефу. У ВКЛ у 1-й пал. 15 ст. выкарыстоўвалі камбінаваную тэхніку: высокарэльефную вывяву (наканечнік дзіды) наносілі штэмпельнай парай са штэмпеля і контрштэмпеля, а потым паверх заглыбленай вывявы білі штэмпелем другога боку. У Зах. Еўропе ў 1-й пал. 12 — пач. 18 ст. выкарыстоўвалася брактэатная (ад лац. bractea бляха) тэхніка: тонкая манетная пласцінка, змешчаная на скураной падсцілцы, атрымлівала вывяву пры ўздзеянні толькі аднаго штэмпеля, на другім баку на месцы рэльефных частак выціскаліся заглыбленні. Найбольш пашыранай была штампоўка штэмпельнымі парамі з «негатыўнымі» вывявамі. З цягам часу сродкі і крыніцы перадачы кінетычнай энергіі на верхні штэмпель удасканальваліся: побач з ручным молатам з'явіўся молатавы снарад, пачала выкарыстоўвацца конная цяга, механічныя рухавікі, з 17 ст.— вінтавы прэс-балансір, з пач. 19 ст.— крывашыпны прэс з аўтаматызаванай падачай загатовак, у 20 ст.— фракцыённы вінтавы прэс. З пачаткам афармлення *гурту* манеты *карбоўкай* паявіліся спец. прыстасаванні: станок з гурцільнымі палоскамі для апрацоўкі гурту да штампоўкі і раздымнае гурцільнае кольца для нанясення гуртавога надпісу ці фармоўкі гладкага гурту ў час штампоўкі. У Зах. Еўропе з сярэдзіны 16 ст. да 18 ст. адначасова са штампоўкай выкарыстоўвалася вальцоўка спец. наразнымі вальцамі, на бочкі якіх гравіроўкай, *пуансонамі* ці камбінаваным спосабам наносілі заглыбленыя люстраныя элементы рэльефу манеты. Аб'ёмная дэфармацыя паласы была спалучана з аўтаматычнай вырубкай накатаных на паласу «манет». У сярэдзіне 17 ст. ў Рэчы Паспалітай з'явілася своеасаблівая мадыфікацыя вальцоўкі з выкарыстаннем папярэдне высечаных кружкоў-загатовак. У Зах. Еўропе ў сярэдзіне 17 ст. вал удасканалены ўвядзеннем зменных вальцовачных сегментаў, шыпы якіх мацаваліся ў адпаведных пазухах на вале (пры выхадзе са строю аднаго штэмпеля ўжо не было патрэбы ў перараробцы ўсяго вала). Для надання адпаведнай цвёрдасці працоўнаму інструменту (штэмпелям, вальцам) яго загартоўвалі з папярэднім нагрэвам у вугальным парашку (для прадухілення з'яўлення акаліны), а потым адпускалі пры невял. падагрэве (для ліквідацыі ломкасці). У 19 ст. пачалося выкарыстанне штэмпелярэзнай машыны, або капіра, якая з павялічанай мадэлі пераносіла манетныя ці медальныя вывявы на штэмпель, у 20 ст.— спец. апрацоўкі штэмпельнай паверхні (люстраная паліроўка і наданне матавасці). Для высокарэльефных вырабаў (медалёў) выкарыстоўваецца штэмпель для папярэдняй фармоўкі асн. дэталей (перадудар), які робіцца адбіўкай бронзавага медаля (ён адліваецца з яшчэ незакончанага штэмпеля, у распаленай стальной балванцы). Акрамя манет з чыстых металаў ці аднародных сплаваў, эпізадычна з рознымі мэтамі выраблялоцца манеты з камбінаваных металаў або сплаваў. Упершыню такія манеты з'явіліся ў 3 ст. да н. э.— рымскія субэратныя *дэнарыі*, якія рабілі шляхам плакіроўкі меднага асяродка сярэбранай абалонкай. Часам выкарыстоўваліся сплавы серабра рознай пробы, якія размешчаны пластамі адзін адносна аднаго (наўгародскія зліткі 14 ст., дзесяціцэнтавыя манеты ЗША 20 ст.). З 17 ст. ў Ірландыі вядомы манеты, у якіх розныя сплавы механічна спалучаны штампоўкай.

*Літ.:* 1244, 1327, 1542, 1546, 1551, 1565, 1570, 1615, 1635, 1708, 1714, 1728.

*І. І. Сінчук.*




**УВА́РАВІЧЫ,** археал. помнікі каля г. п. Уваравічы Буда-Кашалёўскага р-на.

Г а р а д з і ш ч а-1 *мілаградскай культуры* і *зарубінецкай культуры.*

На паўд. ускраіне г. п. Уваравічы, ва ўрочышчы Гарадок, на мысе карэннай правабярэжнай тэрасы р. Уза. Пляцоўка падпрамавугольная памерам 65×67 м, выш. 8 м над поплавам. З трох бакоў умацавана валам, які захаваўся на выш. да 2 м, шыр. у аснове да 9—10 м, з У і З захаваліся сляды рова шыр. да 2—3 м, глыб. да 1 м. Помнік вядомы з 1910, неаднаразова абследаваўся. Даследаваў у 1988—90 А. І. Драбушэўскі. Культурны пласт 1,2—1,3 м. Паводле стратыграфічных даных вылучаны 3 асн. будаўнічыя перыяды (верхні — зарубінецкі, 2 ніжнія — мілаградскія). Выяўлены рэшткі 5 пабудоў (2 з іх зарубінецкай культуры), некалькі дзесяткаў гасп. і слупавых ям. Амаль у цэнтры пляцоўкі даследаваны рэшткі доўгага дома, аналагі яму вядомы ў *юхнаўскай культуры* Падзясніння, з уплывам якой звязаны знаходкі «рагатых цаглін» і некаторых форм глінянага посуду.

Знойдзены рэшткі бронзаліцейнай вытворчасці — абломкі домніц, тыгляў, льячак, ліцейных форм для адліўкі бранзалетаў, кавалкі шлакаў і інш. У адной з пабудоў выяўлены невял. скарб бронзавых упрыгожанняў, у складзе якога была літая фігурка каня. Знойдзеныя матэрыялы сведчаць пра больш шырокі характар кантактаў насельніцтва Бел. Падняпроўя і Падзясніння ў 1-м тысячагоддзі да н. э., чым лічылася раней, і пра тое, што ў раннім жал. веку гарадзішча з'яўлялася важным гандлёва-вытворчым цэнтрам Верхняга Падняпроўя.

Датуецца 7 ст. да н. э.— 1 ст. н. э.

Гарадзішча-2. За 1 км на У ад г. п. Уваравічы. Пляцоўка амаль квадратная, памер 90×80 м, з закругленымі вугламі і выпуклымі бакамі. Па ўсім перыметры насыпаны вал. З трох бакоў гарадзішча ўмацавана ровам глыб. 1—1,5 м, шыр. 6—9 м, з 4-га боку — балоцісты поплаў р. Уза. З боку поля выш. гарадзішча 4—6 м, з боку поплава — 8—9 м. Выявіў і абследаваў у 1893 Е. Р. Раманаў, абследаваў у 1976 Я. Г. Звяруга.

Курганны могільнік. За 500 м на Пд ад гар. пасёлка, на левым беразе р. Уза. 34 насыпы выш. 0,5—1,7 м, дыям. 5—12 м (раней было 150 насыпаў). Адкрыў у канцы 19 ст. Раманаў, даследаваў у 1892 мясц. настаўнік, абследаваў у 1976 Звяруга. Пахавальны абрад — трупапалажэнне. Знойдзены падвескі, нож, гліняны гаршчок, арабскія манеты 933 г. Датуецца канцом 10 — пач. 12 ст.

*Літ.:* 408а, 981.

*А. І. Драбушэўскі, А. А. Макушнікаў.*

**УВА́РАЎ** Аляксей Сяргеевіч (28.2.1825—29.12.1884), рускі археолаг і арганізатар навукі. Граф, сын дзярж. дзеяча, прэзідэнта Расійскай АН С. С. Уварава. Скончыў Сібірскі ун-т (1845), вучыўся ў Берліне і Гейдэльбергу. Адзін з заснавальнікаў Рус. археал. т-ва, Маскоўскага археал. т-ва (з 1864 яго старшыня) і Гіст. музея ў Маскве, адзін з арганізатараў археал. з'ездаў у Расіі. За свой кошт устанавіў Увараўскія прэміі пры Акадэміі навук (1857). У 1851—54 раскапаў 7729 курганоў ва Уладзімірскай і Маскоўскай губ., у 1853—54 раскопваў Ольвію, Херсанес, Неапаль скіфскі. Ініцыятар выхаду ў свет палеаграфічных зборнікаў надпісаў, «Археалагічнага сінодзіка», альбомаў старажытнасцей Ноўгарада, Пскова і інш., складання інструкцыі для раскопак, правядзення даследаванняў крывіцкіх курганоў. У 1880 зацікавіўся срэбранікамі кн. Уладзіміра, знойдзенымі на Магілёўшчыне, і раскапаў там 17 курганоў.



А. С. **Увараў.**



Бронзавыя ўпрыгожанні з гарадзішча-1 **Уваравічы.**

*Тв.:* Археология России. Каменный период. Т. 1—2. М., 1881; [О монетах из Вотни] // Древности: Тр. Московского Археологического о-ва. 1880. Т. 8 (протоколы).

*Літ.:* 239, 819, 1514.

*У. У. Багамольнікаў.*

**УЗГО́РКІ КУ́ЛЬТАВЫЯ,** язычніцкія культавыя помнікі. Культ свяшчэнных узгоркаў і гор у індаеўрапейскіх і іншых народаў займаў значнае месца. Прынцып бінарных апазіцый (у міфалогіі — сістэма дваічных проціпастаўленняў, якія вызначалі характарыстыкі асн. з'яў і персанажаў, напрыклад, верх — ніз) выяўляўся і ў размежаванні персанажаў: грамавержац, як і сонечныя багі, асацыіраваўся з вяршынямі гор, у той час як хтанічныя божаствы — з нізінай.

Летапісы адзначаюць, што ў язычніцкім Кіеве ідал Перуна стаяў на ўзгорку, а Вялеса (апякун жывёлагадоўлі) — на Падоле, у ніжняй частцы горада. Шматлікі матэрыял, сабраны Б. А. Рыбаковым і інш. даследчыкамі пагантсва, сведчыць, што ў старажытнасці культавае значэнне мелі ўзгоркі, за якімі захаваліся назвы тыпу Красная горка, Дзявочая (Дзявічая) гара, Бабіна гара, Лысая гара, Святая гара, Перунова гара. З культам Вялеса маглі быць звязаны ўзгоркі з назвамі тыпу Турава гара, Валова гара. Аднак неабходна ўлічыць, што вобраз тура, які раве на гары, у слав. нар. паэзіі лічыўся ўвасабленнем грому. Ланцуг узгоркаў з назвай Туравы (Турыя) горы ёсць каля в. Іканы Барысаўскага р-на. Тут непадалёку захаваўся камень Князь, які і цяпер шануецца насельніцтвам. На Беларусі ёсць узгоркі з назвамі Змеева гара, Змяінец. Узгоркі з назвай Дзявочая гара вядомы ў г. Мсціславе (гарадзішча жал. веку), у в. Дуброва Маладзечанскага р-на (курганы 2-й пал. 11 ст.) і ў інш. мясцінах. Узгоркі з падобнымі назвамі сустракаюцца пад Кіевам, у Чэхіі і Славакіі. На іх выяўлены сляды культу язычніцкай багіні Дзевы. Пра Мар'іну горку ў Пухавіцкім р-не захавалася легенда, што на ёй знаходзіўся культавы камень, якому пакланяліся язычнікі. Узгоркі з назвамі Святая гара ёсць каля в. Скірмантава Дзяржынскага р-на, в. Плябань Маладзечанскага р-на і інш. Каля в. Свяціца Полацкага р-на існуе ўзгорак Талкачоўка, на якім спрадвеку палілі купальскія вогнішчы. Пасля прыняцця хрысціянства на У. к. нярэдка ставілі цэрквы, каб нейтралізаваць язычніцкія традыцыі. Узгоркі, на якіх нібыта адбываліся цуды, сталі выконваць функцыі *прошчаў.*

*Літ.:* 445, 1014, 1015. *Э. М. Зайкоўскі.*

**У́ЗДЗЕНСКІ ГІСТО́РЫКА-КРАЯЗНА́ЎЧЫ МУЗЕ́Й.** Заснаваны 6.2.1981. Адкрыты для наведвальнікаў 1.11.1986. Археал. раздзел уключае матэрыялы раскопак і збораў М. М. Чарняўскага, Л. У. Калядзінскага, А. М. Плавінскага, В. У. Шаблюка. Экспануюцца крамянёвы наканечнік дроціка і нажападобныя пласціны, каменныя шліфаваныя сякеры з паселішча *Магільна,* глінянае прасліца, грузікі дзякоўскай культуры, фрагменты посуду *штрыхаванай керамікі культуры* з гарадзішча *Алёхаўка,* рэшткі керамікі банцараўскай культуры з гарадзішча Цеплень, прадстаўлены матэрыялы часоў Кіеўскай Русі (посуд, шкляныя пацеркі і інш.

інвентар з курганоў 9—10 ст.), позняга сярэднявечча (жал. сякера і нажы, падкоўкі да абцасаў ботаў, гліняныя грузілы і прасліцы, гаршкі, міскі, талеркі, кафля з паселішча *Сямёнавічы* 14—18 ст., кафля 16 ст. з *Магільнянскага замка*, нажы з тронкамі з могільніка). Экспануюцца таксама манеты (пераважна медныя і білонныя грошы) Вял. кн. Літоўскага і Рэчы Паспалітай, карта археал. помнікаў Уздзенскага р-на і фотаздымкі гарадзішча Цеплень, курганоў каля в. Валяр'яны. *Л. У. Калядзінскі.*

**УЗМЕ́НСКАЯ КУЛЬТУ́РА,** археал. культура плямён, якія ў канцы 3-га тысячагоддзя да н. э.— сярэдзіне 2-га тысячагоддзя да н. э. жылі на Пд Пскоўскай вобл. Арэал У. к. на Пд супадае з арэалам папярэдняй ёй *паўночнабеларускай культуры*, на Пн выходзіць за яе межы ў вярхоўі рэк Ловаць і Вялікая. У самастойную культуру яе вылучыў А. М. Мікляеў (Санкт-Пецярбург) паводле матэрыялаў з паселішчаў Узмень Усвяцкага р-на (адсюль назва), Усвяты-2, з ніжняга пласта селішча Узмень-2. Насельніцтва займалася збіральніцтвам і паляваннем. Кераміка з раслліннымі дамешкамі ў цесце без арнаменту або слаба арнаментаваная, з глыбокімі расчосамі з абодвух бакоў. Пасудзіны мелі плоскія або круглыя арнаментаваныя донцы з маленькім выступам у цэнтры. Трэцяя частка фрагментаў посуду арнаментавана насечкамі, некаторыя — тычкамі і адбіткамі грабянцовага штампа, ямкавым і шнуравым арнаментам, пракрэсленымі лініямі. Крамянёвыя прылады працы: лістападобныя і тронкавыя наканечнікі стрэл з плаватай рэтушшу, аморфныя скрабкі, дзюбападобныя разцы, сустракаюцца сланцавыя долаты.

*Э. М. Зайкоўскі.*

**УЗНО́СНАЕ,** курганны могільнік каля в. Узноснае Талачынскага р-на. За 500 м на ПнУ ад вёскі. 4 насыпы выш. 0,7—1,2 м, дыям. 6—8 м, дрэннай захаванасці. Па звестках мясц. жыхароў, курганоў было болей. Адкрыў у 1956 Л. В. Аляксееў, даследавала ў 1971 З. М. Сяргеева, абследавалі ў 1972 А. Р. Мітрафанаў, у 1981 В. М. Ляўко. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў яме, на гарызонце і ў насыпе.

Знойдзены жал. нажы, крэсіва, бронзавыя пярсцёнкі, скроневыя кольцы, пражкі, бранзалет, шкляныя пацеркі, гаршчок з лінейным арнаментам.

Датуецца 11—12 ст.

*Літ.:* 1089. *В. М. Ляўко.*

**УКЛА́ДЫШ,** дробная дэталь складанай прылады працы першабытнага чалавека. З'явіўся ў верхнім палеаліце, найбольш пашыраны ў мезаліце. Выраблялі з *пласцін*, *адшчэпаў* або іх частак у форме трапецыі, сегмента, прамавугольніка і інш. Некалькі У. мацавалі ў касцяную або драўляную аправу, гэта дазваляла рабіць нажы, наканечнікі рознай даўжыні і больш вострыя. Было новай ступенню ў развіцці вытворчасці прылад працы.

**У́КЛЯ,** археал. помнікі каля в. Укля Браслаўскага р-на.

Г а р а д з і ш ч а. За 1 км на Пн ад вёскі, на беразе воз. Укля, ва ўрочышчы Тарылава. Выш. над наваколлем 20 м. Пляцоўка авальная, памер 60×40 м. Адкрыў у канцы 19 ст. Ф. В. Пакроўскі, абследавалі ў 1972 М. М. Чарняўскі, у 1976, 1980 Л. У. Дучыц. Культурны пласт 1 м. Пры шурфоўцы знойдзены рэшткі ляпнога посуду *днепра-дзвінскай культуры* і *штрыхаванай керамікі культуры*, касцяныя праколкі, косці жывёл. Датуецца 7 ст. да н. э.— 4 ст. н. э.



Бранзалеты і падкованападобная фібула з курганнага могільніка **Укля.**

К у р г а н н ы  м о г і л ь н і к. За 2 км на ПнУ ад вёскі, ва ўрочышчы Валатоўкі, у лесе. 135 насыпаў выш. 0,5—0,6 м, дыям. 5—6 м. Даследавалі ў канцы 19 ст. Ф. В. Пакроўскі (11 насыпаў), у 1987—88 Л. У. Дучыц (15). Пахавальны абрад — трупапалажэнне на мацерыку (адно пахаванне з трупаспаленнем).

Знойдзены нажы, сякеры, калачападобныя крэсівы, утулкавы наканечнік кап'я, ліразападобная спражка, плецены пярсцёнак, вайнагі, вітыя з двух драцін бранзалеты, зааморфныя і манжэтападобныя бранзалеты, падковападобныя фібулы, ланцужкі, сінія шкляныя, золаташкляныя і сярэбранашкляныя пацеркі, грушападобныя званочкі, каралі са шкляных пацерак у спалучэнні са званочкамі, гліняны посуд.

Належаў балта-славянскаму насельніцтву. Датуецца 11—12 ст.

*Літ.:* 916. *Л. У. Дучыц.*

**УКРА́ІШЧА,** паселішча эпохі неаліту каля в. Украішча Лёзненскага р-на. За 1,5 км ад вёскі, на 1-й надпоплаўнай тэрасе левага берага безназоўнай рачулкі, якая за 1 км ад паселішча ўпадае ў р. Лучоса (прыток Зах. Дзвіны). Выявіў і даследаваў 112 м² у 1969 І. М. Ціханенкаў. Культурны пласт 0,2—0,4 м, у значнай ступені разбураны.

Знойдзена больш за 30 скрабкоў рознай формы (10 канцавых, з іх адзін пласцініcты, астатнія на адшчэпах), 2 скоблі, 20 праколак (пераважна на пласцiністых адшчэпах), 20 разцоў (вуглавыя, сярэдзінныя і бакавыя), 18 ножападобных пласцін, 15 мікрапласцінак, 41 сячэнне пласціны, 2 трапецападобныя ўкладышы, 3 сякеры (з іх адна крамянёвая). Кераміка з арганічнымі дамешкамі ці пяском у цесце, з прамымі венчыкамі, пераважна неарнаментаваная частка аздоблена адбіткамі грабянцовага штампа (у адным выпадку шнура), адступаючай палачкі, «вусеневымі» ўзорамі.

Паселішча адносіцца да *бабінавіцкага тыпу помнікаў*.

*Э. М. Зайкоўскі.*

**УЛА́ШЧЫК** Мікалай Мікалаевіч [1(14).2.1906, в. Віцкаўшчына Койданаўскага пав. (цяпер Дзяржынскі р-н) — 14.11.1986], беларускі гісторык, археограф, археолаг і краязнавец. Д-р гіст. навук (1964). Скончыў БДУ (1929). У час вучобы выязджаў на раскопкі на Свіслач, ва Усх. Палессе. Разам з М. В. Доўнар-Запольскім удзельнічаў у даследаванні гарадзішча *Банцараўшчына*. У часопісе «Наш край» выступаў з публікацыямі пра гарадзішча і ўмацаваны замак 16 ст. ў Койданаве. У 1930—55 быў тройчы рэпрэсіраваны. Паміж часамі зняволення працаваў настаўнікам у РСФСР і Сярэдняй Азіі. У 1948—49 працаваў у Маскоўскім дзярж. ун-це. З 1955 навук. супрацоўнік Ін-та гісторыі АН СССР, чл. Археалагічнай камісіі АН СССР. Даследаваў праблемы сацыяльна-эканам. развіцця Беларусі і Літвы, працаваў у галіне археаграфіі і крыніцазнаўства эпохі феадалізму. Падрыхтаваў і выдаў 32-і (1975) і 35-ы (1980) тамы «Поўнага збору рускіх летапісаў», «Хроніку Быхаўца» (1966). Аўтар манаграфій «Нарысы па археаграфіі і крыніцазнаўству гісторыі Беларусі феадальнага перыяду» (1973), «Уводзіны ў вывучэнне беларуска-літоўскага летапісання» (1985), гісторыка-краязнаўчай кнігі «Была такая вёска» (1989). Адзін з рэдактараў «Гісторыі Беларускай ССР» (т. 1, 1972). Аўтар успамінаў пра А. М. Ляўданскага, Доўнар-Запольскага, С. С. Шутава і інш.

*Тв.:* О количестве земли, полученной крестьянами Белоруссии и Литвы при отмене крепостного права // История СССР. 1961. № 6; Предпосылки крестьянской реформы 1861 г. в Литве и Западной Белоруссии. М., 1965; Грамотность в дореволюционной Белоруссии // История СССР. 1968. № 1;

Хроніка // Скарыніч: Літ.-навук. гадавік. Мн., 1991. Вып. 1.

*Літ.:* 1392а. *Г. А. Кахановскі.*

**УЛІК АРХЕАЛАГІЧНЫХ ПОМНІКАЎ.** Адзіная сістэма ўліку помнікаў па уніфікаванай форме ўведзена ў СССР і БССР з 1972. Кожнаму помніку надаецца назва (звычайна па бліжэйшым населеным пункце, часам па ўрочышчы), на яго складаюцца *картка ўліку археалагічнага помніка* і *пашпарт на помнік археалогіі,* ацэньваецца навук. значэнне помніка (катэгорыі: сусветнага, саюзнага, рэспубліканскага, мясц. значэння), выкарыстоўваецца сістэма індэксацыі. Спецыялісты складаюць, абмяркоўваюць, а ўрад зацвярджае спісы помнікаў. «Спіс помнікаў гісторыі і культуры рэспубліканскага значэння» зацверджаны СМ БССР 18.2.1988, у яго ўключаны і помнікі археалогіі (выдадзены ў 1990). Падобныя спісы могуць афармляцца ў форме *археалагічных карт, збораў археалагічных крыніц,* збораў помнікаў (гл. *«Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі»*). Работу па У. а. п. арганізуе Мін-ва культуры Рэспублікі Беларусь, якое нясе адказнасць і за ахову помнікаў (гл. *Ахова помнікаў археалогіі*). Мясц. органы ўлады (праз аддзелы культуры выканкомаў) павінны мець поўныя спісы помнікаў, размешчаных на падпарадкаванай ім тэрыторыі, дублікаты ўліковых картак і пашпартоў. На аснове гэтых дакументаў вядзецца мясцовы, рэгіянальны ўлік, выстаўляюцца *ахоўныя знакі,* заключаюцца *ахоўныя абавязацельствы* з землекарыстальнікамі, прыцягваюцца да адм. або крымінальнай адказнасці асобы, па віне якіх помнік пашкоджаны. У. а. п.— аснова мерапрыемстваў па вывучэнні і ахове археал. і культурнай спадчыны.

*Літ.:* 402, 1110. *У. Ф. Ісаенка.*

**УЛЬСКІ ЗАМАК.** Існаваў у 16—17 ст. у г. п. Ула Бешанковіцкага р-на. Ула ўзнікла як невял. паселішча 14—15 ст. на вузкім клінападобным мысе пры ўпадзенні аднайменнай ракі ў Зах. Дзвіну. У час Лівонскай вайны 1558—83 для абароны вусця Улы і кантролю за рухам па Зах. Дзвіне вял. кн. ВКЛ і кароль Польшчы Жыгімонт II Аўгуст загадаў у 1563 узвесці тут замак. Мысавую пляцоўку адрэзалі ровам ад плато, па перыметры ўзвялі абарончы вал, а схілы замчышча, звернутыя да вады, выбрукавалі валунамі. Але будаўніцтва У. з., якім кіраваў венецыянскі інжынер, спынілася ў сувязі з нападам атрада рус. войск. Уся буд. каманда была перабіта. У 1567 Іван IV Грозны загадаў пабудаваць тут крэпасць у выглядзе драўляных сцен-гародняў і вежаў. Запоўненыя зямлёй гародні добра вытрымлівалі артылерыйскі абстрэл. У. з. меў 8 вежаў, вароты і брамкі. З сярэдзіны лютага да 4.3.1568 замкавыя ўмацаванні беспаспяхова штурмавала войска Я. Хадкевіча. Разбіўшы гарматамі сцены і вежы, яно аднак адступіла. Толькі 20.9.1568 гетман Р. Сангушка прыступам захапіў У. з., гарнізон якога быў п'яны. У палон трапілі 2 ваяводы — браты Вельямінавічы, 300 баяр і 800 стральцоў са зброяй. Згарэлы ў час штурму замак хутка зноў быў адноўлены. Паводле загаду Стэфана Баторыя ў 1580 тут насыпалі магутны вал выш. каля 11,5 м. У пач. рус.-польскай вайны 1654—67 У. з. зноў быў заняты рус. войскамі, спалены і больш не аднаўляўся. У 16—18 ст. мяст. Ула валодалі князі Быстрыцкія, Лукомскія, Ржэцкія, Патоцкія, Рэуты, А. Д. Меншыкаў. *М. А. Ткачоў.*



**Унутрывальныя канструкцыі** Віцебскага Верхняга замка. 12 ст.

**УМБОН,** канструкцыйны элемент драўлянага *шчыта* ў выглядзе выпуклага жал. круга. Меў форму пляскатага паўшар'я або конуса розных профіляў. Дыям. 10—24 см, выш. 2,8—13 см. Мацаваўся да шчыта цвікамі па краях. У. узмацняў канструкцыю шчыта і засцерагаў ад удараў халоднай зброі. У Еўропе вядомы з латэнскай эпохі. На тэр. Беларусі першыя У. выяўлены ў жал. веку. Шырока выкарыстоўваліся ў 9—13 ст., калі імі ўмацоўвалі шчыты нарманскага тыпу.

*Літ.:* 424, 475, 1438, 1479. *Г. М. Сагановіч.*

**УНУТРЫВАЛЬНЫЯ КАНСТРУКЦЫІ,** штучныя збудаванні з дрэва, каменю, цэглы, гліны і інш., якія размяшчаліся ўнутры насыпу абарончага вала для яго арміравання і прадухілення дынамічных дэструктыўных працэсаў (прасадкі, апаўзання). Мураваныя ўнутрывальныя хады-галерэі дазвалялі непрыкметна перамяшчаць на розныя ўчасткі абароны воінаў гарнізона. На Беларусі У. к. выкарыстоўваліся ў 11—17 ст. Драўляныя У. к. зафіксаваны ў час археал. даследаванняў стараж. бел. гарадоў. Былі 2 тыпаў — зрубныя і перакладныя, т. зв. «руставай» канструкцыі. Зрубныя У. к. выявіў у 1963 П. Ф. Лысенка пры прарэзцы вала вакольнага горада летапіснага Пінска. У земляным вале, які ў час узвядзення (сярэдзіна 11 ст.) меў шыр. каля 30 м і выш. да 8 м, знойдзены рэшткі зрубаў. Яны стаялі ўпоперак трасы вала па 3 у рад, прыстаўленыя адзін да аднаго. Даўж. кожнага зруба больш за 6 м, агульная даўж. усіх трох больш за 19 м. Параметры вала і У. к. адпавядаюць параметрам кіеўскага «горада Яраслава» (сярэдзіна 11 ст.). Зрубы-клеці з доўгіх бярвён, падзеленыя папярочнымі перамычкамі на клеткі (1,5×1,5 м і 2×2 м), выяўлены і ў насыпе вала пінскага дзядзінца. Тут, у адрозненне ад У. к. вакольнага горада, зрубы мацавалі толькі частку насыпу вала — яго знешні схіл. Паколькі іншых У. к. зрубнага тыпу на Беларусі не знойдзена, можна меркаваць, што да ўзведзеных у паўд.-рус. традыцыях У. к. у Пінску прамое дачыненне мелі ваенныя майстры з Кіева. У 1937—39 Р. Якімовіч выявіў у Давыд-Гарадку драўляныя У. к. пач. 12 ст. ў выглядзе насцілаў выш. каля 1 м, ганкападобна размешчаных у насыпе вала. У вале стараж. Мінска, які

даследавалі ў 1983 Э. М. Загарульскі і ў 1980—82 Г. В. Штыхаў, заваліся У. к. «руставага» тыпу. Насып вала быў арміраваны спец. каркасам з хваёвых бярвён, пакладзеных на адлегласці 0,7 м адно ад аднаго ўздоўж і ўпоперак трасы вала. Зафіксавана да 9 накатаў. У 12 ст. першапачатковы вал шыр. каля 15 м павялічылі да 22—25 м. Адпаведна ў ім зрабілі У. к. т. зв. «крукавай» канструкцыі — бярвёны фіксаваліся і стапарыліся спец. вырубкамі. «Крукавая» У. к. на Беларусі выяўлена толькі ў Мінску. Перакладныя У. к. «руставага» тыпу знойдзены ў 1978—79 і 1989 М. А. Ткачовым і Л. У. Калядзінскім у вале стараж. Віцебска. Яны мелі выгляд рашэцістага каркаса з хваёвых бярвён шыр. 16 м і выш. каля 1,4 м. Прасветы паміж бярвёнамі былі запоўнены вязкай глінай. Падобныя У. к. выявіў у 1956 А. Р. Мітрафанаў у вале стараж. Полацка (даследаваны часткова). Акрамя драўляных перакладных і зрубных У. к. у насыпах валоў для іх арміравання выкарыстоўвалі валуны, гліняныя «каўбасы», фашыны, палевыя і слупавыя канструкцыі для ўмацоўвання ядра вала або яго знешняга схілу. У бастыённых збудаваннях 16—17 ст. рабілі скляпеністыя мураваныя У. к.— баявыя хады. Яны былі ў Нясвіжскім і часткова Высокаўскім замках. Вядомы скляпеністыя хады выш. 2 м і шыр. 0,9 м у Каралінскім замку. У скляпенні праз кожныя 4 м былі зроблены невял. адтуліны шыр. 20 см для доступу паветра і святла. З падземнага праходу можна было скрытна трапіць на бастыён.

*Літ.:* 385, 1200. *М. А. Ткачоў.*

**УРА́ГАВА,** гарадзішча днепрадзвінскай і банцараўскай культур жал. веку каля в. Урагава Верхнядзвінскага р-на. За 1 км на Пн ад вёскі, на зах. беразе Асвейскага воз., на ўзгорку выш. 12—15 м сярод забалочанага поплаву. Пляцоўка авальная, памер 70×40 м. З усх. боку — вал і роў, з зах.— 2 валы і 3 равы. На ПдУ ад гарадзішча знаходзіцца селішча. Вядома з канца 19 ст. Даследавалі ў 1949 А. Р. Мітрафанаў, 1965—66 К. П. Шут, 1979 В. І. Шадыра. Культурны пласт у цэнтры пляцоўкі 0,5—0,7 м, па краях 1—1,5 м, складаецца з 2 гарызонтаў: 7 ст. да н. э.— 4 ст. н. э. і 5—8 ст. н. э. У верхнім гарызонце выяўлены рэшткі наземных жытлаў слупавой канструкцыі з каменнымі агнішчамі ў цэнтры, гасп. пабудоў, жалезаапрацоўчай майстэрні, у ніжнім — шмат касцей жывёл, розных вырабаў з каменю і косці.

Сярод знаходак прылады працы пераважна з косці (праколкі, шпількі, шылы, іголкі, долаты і інш.), жал. нажы, сярпы, наканечнікі стрэл, бранзалеты, каменныя сякеры. Кераміка ў асн. танкасценная слоікападобных форм, у верхніх пластах — гладкасценная прафіляваная. Знойдзены посуд з шурпатай паверхняй, гліняныя праслíцы, тыглі, льячкі. Насельніцтва займалася жывёлагадоўляй (буйной рагатай жывёлы каля 44 %, дробнай 14 %, свіней каля 2,5 %), паляваннем, рыбалоўствам, земляробствам.

*В. І. Шадыра.*

**У́РНЫ ПАХАВА́ЛЬНЫЯ,** гліняныя, каменныя, металічныя пасудзіны для пахавання крэміраваных рэштказ нябожчыка. Пашыраны ў многіх народаў Еўропы эпохі позняй бронзы. Ставіліся ў курганах, грунтавых могільніках.

На тэр. Беларусі ў якасці У. п. выкарыстоўвалі звычайныя пасудзіны, якія ўжываліся ў штодзённым жыцці (пераважна гаршкі), радзей спец. грубаляпныя пасудзіны. Найб. раннія У. п. знойдзены на могільніку *Нача* і могільніках *тшцінецкай культуры* Зах. Палесся. Першыя урнавыя пахаванні на Беларусі з'явіліся ў жал. веку (400—100 г. да н. э.) і адносяцца да культуры падклёшавых пахаванняў. Знойдзены ў грунтавых могільніках *Ратайчыцы* і *Трасцяніца* Камянецкага р-на. Звычай змяшчаць рэшткі крэмацыі ў У. п. пашырыўся ў плямён *зарубінецкай культуры* і складаў 8 % ад агульнай колькасці іх пахаванняў. У 1-й чвэрці 1 ст. н. э. гэты звычай распаўсюдзіўся ў *калочынскай культуры* і складаў 7—12 % пахаванняў, у культуры доўгіх курганоў — 23 %. Звычай пахавання ў урнах існаваў у дрыгавічоў, радзімічаў, крывічоў да пашырэння хрысціянства. У некаторых народаў захаваўся.

*Літ.:* 634, 797, 1052.

*А. А. Егарэйчанка.*

**УСХОДНЕЛІТО́ЎСКІЯ КУРГАНЫ,** пахавальныя помнікі балцкіх плямён 4—12 ст. н. э. Сустракаюцца на тэрыторыі ўсх. і паўд.-ўсх. Літвы і паўн.-зах. Беларусі ад сярэдняга цячэння Нёмана на З да воз. Свір на У, ад вярхоўяў р. Швянтойі на Пн да басейна р. Мяркіс на Пд. Даследавалі ў 2-й пал. 19—1-й пал. 20 ст. К. П. і Я. П. Тышкевічы, Л. Кандратовіч (У. Сыракомля), П. С. Вільчынскі, А. К. Кіркор, А. Плятар, В. А. Шукевіч і інш. Пасля вайны актыўна вывучаюць літоўскія археолагі А. Таўтавічус, Р. Кулікаўскене, О. Кунцэне і інш. Могільнікі налічваюць ад 3—4 да 200 насыпаў круглай формы, дыям. 5—15 м (зрэдку 20—25 м), выш. 0,3—3 м. Раннія насыпы (4—8 ст.) абкладзены каменнымі вянкамі і часам абкружаны прадаўгаватымі ямамі, вакол пазнейшых ёсць кальцавыя раўкі. Пахавальны абрад у курганах 4—5 ст.— трупапалажэнне ў грунтавых (падкурганных) ямах глыб. 0,5—1,5 м. У кургане 1—2, радзей 3 пахаванні. Нябожчыка клалі на спіну, мужчын галавой на З, жанчын — на У. Пахавальны інвентар мужчын — вузкалязовыя сякеры, наканечнікі коп'яў, нажы, спражкі, фібулы, бранзалеты, зрэдку ўмбоны шчытоў і шпоры. Пахавальны інвентар жанчын прадстаўлены ў асноўным упрыгожаннямі (шыйныя грыўні, бранзалеты, скроневыя кольцы, падвескі), радзей прыладамі працы (сякеры, нажы, праслíцы, шылы). У 5—6 ст. пахавальны абрад — трупаспаленне за межамі могільніка. Рэшткі крэмацыі часам ссыпалі ў неглыбокую грунтавую яму, часцей у аснове або насыпе кургана. Пераважаюць курганы з 2—4 пахаваннямі, сустракаюцца з 5—6 і нават 9—10. Інвентар мужчынскіх пахаванняў 6—8 ст.— зброя. У пахаваннях канца 1-га — пач. 2-га тысячагоддзя н. э. прадметы ўзбраення сустракаюцца вельмі рэдка. У гэты час шырокае распаўсюджанне атрымалі пахаванні з конямі. Іх змяшчалі ў спецыяльна насыпаных курганах і, як выключэнне, у адным кургане з чалавекам. Інвентар конскіх пахаванняў бедны: цуглі, спражкі, часам страмёны.

На тэр. Беларусі даследавалі У. к. *Алешкі, Засвір, Чорная Лужа* (Мядзельскі р-н), *Андрэеўцы, Рымшанцы* (Смаргонскі р-н), *Будрані, Жэлядзь, Пільвіны, Сяржанты* (Астравецкі р-н), *Вайшкуны, Лынтупы* (Пастаўскі р-н) і інш. Большасць даследчыкаў лічыць У. к. пахавальнымі помнікамі ўсх.-літ. плямён, адны звязваюць іх з *аўкштайтамі*, другія з саюзамі плямён. На думку В. В. Сядова, гэта помнікі племяннай групоўкі, вядомай у летапісах пад назвай «літва».

*Літ.:* 272, 424, 848, 1161, 1248.

*Я. Г. Звяруга.*

**УСХОДНЕПАМО́РСКАЯ КУЛЬТУ́РА,** гл. *Паморская культура.*

**УСХОДНЕТШЦІНЕ́ЦКАЯ КУЛЬТУ́РА,** гл. ў арт. *Тшцінецкая культура.*

**УТО́К,** жалезны конусападобны наканечнік ніжняга канца дрэўка дзіды. Акрамя ахоўных функцый, выконваў ролю процівагі баявому наканечніку, каб цэнтр цяжару прыпадаў на сярэдзіну дрэўка. Вядомы з 10—11 ст. У познім сярэднявеччы даўж. У. 15—17 см, дыям. утулкі да 2—3,5 см. Насаджаны У. мацавалі да дрэўка цвічком. Падобныя наканечнікі мелі бердышы, алебарды, інш. зброя. У. дзід 15—17 ст. знойдзены пры раскопках у Лідскім замку, Мазыры, Мсціславе, Гродне.

*Літ.:* 762, 1066, 1457. *Г. М. Сагановіч.*



**ФАРМА́ЦЫЯ ГРАМА́ДСКА-ЭКАНАМІ́ЧНАЯ,** тып (лад) грамадства, заснаваны на пэўным спосабе вытворчасці, арганізацыі гаспадаркі,

грамадскім падзеле працы, сістэме сацыяльных адносін паміж людзьмі (групамі, пластамі, класамі). Паводле матэрыялістычнага погляду на гісторыю, вытворчыя адносіны вызначаюць характар усіх інш. адносін у грамадстве. Асновай вытворчых адносін з'яўляецца форма ўласнасці на сродкі вытворчасці — базіс грамадства. На базісе ўзнікае надбудова — сукупнасць ідэалагічных поглядаў, тэорый, прававых і маральных норм, грамадскіх устаноў, дзярж. утварэнняў і інш.

Гісторыя грамадства ўяўляе сабой працэс развіцця змяняючых адна адну фармацый у выніку эвалюцыі грамадства ці сацыяльных рэвалюцый: першабытнаабшчыннай (бяскласавае грамадства), рабаўладальніцкай, феадальнай, капіталістычнай (класавыя грамадствы) і гіпатэтычнай камуністычнай (гл. таксама *Гістарычная перыядызацыя*). Кожная Ф. г.-э. ўзнікае і развіваецца паводле сваіх асаблівых законаў, потым пасля максімальнага развіцця распадаецца і замяняецца больш вышэйшай. Можна разглядаць гісторыю як шэраг этапаў не толькі эканамічных, але і прававога вызвалення, духоўнага (у прыватнасці рэлігійнага) удасканалення чалавека. Разам з тым нельга сцвярджаць, што ўсё чалавецтва развіваецца па адзіна магчымым, універсальным шляху. Узаемадзеянне розных фактараў надае гісторыі этнасаў (плямён, народнасцей, нацый) індывідуальныя, часам непаўторныя рысы, што асабліва праяўляецца ў пераходныя, рэвалюцыйныя эпохі. Пры пэўных умовах тая ці інш. класавая Ф. г.-э. можа не атрымаць поўнага развіцця і росквіту, а пераход да наступнай паскорыцца ці наадварот затрымаецца. Археалогія вывучае пераважна гісторыю (і культуру) плямён першабытнаабшчыннага ладу, пераход да раннякласавага грамадства, раннія ступені цывілізацыі. Прылады працы часам дазваляюць рэканструяваць спосаб вытворчасці, а жытлы і пахавальны абрад — сацыяльныя адносіны. Рэшткі матэрыяльнай культуры, археал. помнікі і крыніцы служаць як для вывучэння пэўнай Ф. г.-э., так і высвятлення гісторыі канкрэтнага этнасу, яго ўзаемасувязей, укладу ў агульначалавечы прагрэс. Выкарыстанне паняцця Ф. г.-э. абавязвае даследчыка да ўсебаковага вывучэння грамадства, якім вызначаецца этнас. *У. Ф. Ісаенка.*

**ФАРТЫФІКА́ЦЫЯ**, гл. *Абарончыя збудаванні.*

**ФАРТЭ́ЦЫЯ** (польск. forteca ад італьян. fortezza крэпасць), адна з назваў палявых ці доўгачасовых вайсковых умацаванняў 17—18 ст. у Рэчы Паспалітай і Расійскай імперыі. Зрэдку Ф. называлі ўмацаваны *замак.*

**ФА́ЎНА** (ад лац. Fauna Фауна — багіня палёў, лясоў, захавальніца і заступніца статкаў), сукупнасць усіх відаў жывёл, якія сфарміраваліся гістарычна ў пэўным зоагеаграфічным раёне або на ўсёй Зямлі. Ф. любой тэрыторыі ўключае розныя фаўністычныя комплексы. У кожным такім комплексе ёсць віды жывёл, якія маюць падобныя арэалы. У кожным рэгіёне жывуць карэнныя віды — аўтахтоны і віды-імігранты. Паводле асяроддзя пражывання вызначаюць тэрыяфауну (млекакормячыя), арнітафауну (птушкі), іхтыяфауну (рыбы). Тэрмін «Ф.» ўжываецца таксама для абазначэння месцажаў пражывання — глебавая Ф., лясная Ф. і інш. Вызначаюць Ф. сучасную і выкапнёвую.





**Фібулы** 6—7 ст. Гомель (уверсе), 10—12 ст. з могільніка Нісімкавічы Чачэрскага р-на.



Бронзавая **фібула** з археалагічнага комплексу Тайманава.

Ф. мінулых геалагічных часоў называюць па месцы знаходжання (напр., трыпольская Ф.), па назве геалагічнай эпохі (напр., пліяцэнавая Ф.) або тыповага прадстаўніка (напр., мамантавая Ф.). Вывучэнне складу Ф., яе паходжання, характэрных асаблівасцей — асн. задача фаўністыкі (раздзел зоагеаграфіі) і палеазаалогіі. Ф. Беларусі характарызуецца адсутнасцю эндэмікаў (раслін, якія пашыраны толькі ў адным рэгіёне) і перавагай відаў з еўрап.-сібірскім тыпам арэалаў. Уваходзіць у склад Ф. лясной зоны (падзоны мяшаных лясоў) Галарктычнай зоагеаграфічнай вобласці. Аб'ядноўвае больш за 430 відаў пазваночных і некалькі дзесяткаў тысяч беспазваночных. Вядома каля 70 відаў і падвідаў вымерлых млекакормячых, рэшткі якіх знойдзены больш як у 200 пунктах рэспублікі. Іх падзяляюць на 3 групы: віды, якія вымерлі і нідзе больш не сустракаюцца (слон паўночны, мамант, шарсціcты насарог, пячорны мядзведзь і інш.); віды, што жылі тут калісьці, а цяпер насяляюць інш. рэгіёны (аўцабык, паўн. алень, дзікабраз і інш.); віды, якія жывуць і цяпер (зубр еўрапейскі, алень высакародны, воўк, бобр і інш.). Віды жывёл, касцявыя рэшткі якіх трапляюцца ў культурным пласце археал. помнікаў, вывучае *археазаалогія.*

*Літ.*: 1094, 1135, 1375.

*Н. П. Александровіч.*

**ФАЯ́НС** (франц. faïence ад назвы італьян. горада Faenza, дзе выраблялі фаянс), керамічныя вырабы з глін з нізкім утрыманнем вокісу жалеза, са шчыльным дробнапорыстым чарапком. Паверхню вырабаў звычайна пакрываюць празрыстай ці непразрыстай глазурай, на якую часам наносяць малюнак. У 11—12 ст. Ф.— адзін з прадметаў імпарту з краін Усходу. У 17—18 ст. Ф. у невялікай колькасці прывозілі з Зах. Еўропы.

На Беларусі вытворчасць Ф. пачалася ў 1742 з адкрыццём кн. М. К. Рыбанькам Радзівілам у мяст. Свержань (цяпер в. Новы Свержань Стаўбцоўскага р-на) фаянсавай мануфактуры («фарфорні»). Першыя бел. майстры Ян Крупуз і М. Кручкоўскі вучыліся майстэрству ў саксонскага майстра Г. Статлера. Заводскія рэестры даюць інфармацыю пра асартымент прадукцыі: разнастайныя сервізы з колькасцю прадметаў да 96 адзінак, талеркі розных памераў і форм, сталовыя міскі з ручкамі і накрыўкай, салатніцы, цукерніцы, філіжанкі і кубачкі са сподкамі, куфлі з накрыўкамі, збанкі, жырандолі, бюсты старaж. філосафаў, фігуркі святароў і шляхціцаў, кафля, аптэчны і літургічны посуд, чарнільніцы, шкатулкі, фігуркі святых для алтароў і інш. Вырабы афармлялі ў стылі барока і ракако адпаведна тагачаснай еўрап. модзе. Прадпрыемства праіснавала да сярэдзіны 1760-х г. Ф. выраблялі таксама на мануфактурах М. Агінскага ў Целяханах (існавала ў 1778—1830), выраблялі фрызы і карнізы для камінаў і печаў, скульптуры малых форм, кафлю ў стылі барока і класіцызму, пазней стаў прыкметны ўплыў традыцыйнай бел. керамікі. На целяханскіх вырабах ставілі клеймы «О» ці «СО». Вялікая археал. калекцыя навасвержанскага Ф. сабрана ў Мірскім замку. На тэр. замка знойдзена каля 200 фрагментаў вырабаў (талеркі, міскі, соуснік, кубкі для кавы), больш за 150 з іх пакрыты белай эмаллю і аздоблены блакітным

дэкорам сіняга, фіялетавага, жоўтага, зялёнага колераў. Рэшткі Ф. знойдзены таксама ў Віцебску, Мсціславе, Навагрудку і інш. гарадах і сядзібах.

*І. У. Ганецкая.*

**ФЕДАРО́ВІЧ** Вацлаў Пятровіч [25.9.1848, Магілёў — 12(25).1.1911], беларускі краязнавец, калекцыянер, юрыст. Чл.-кар. Кракаўскай АН. Скончыў Маскоўскі ун-т. З 1872 працаваў адвакатам у Саратаве, Балашове, Царыцыне, Ерэване. З 1884 жыў і працаваў у Віцебску. Намеснік старшыні Віцебскай вучонай архіўнай камісіі. Дапамагаў у раскопках археолагам, у т. л. М. Ф. *Кусцінскаму*, калекцыяніраваў зброю, археал., нумізматычныя, сфрагістычныя, этнаграфічныя матэрыялы. Набыў у сваю калекцыю матэрыялы віцебскіх калекцыянераў Бергнера і Валковіча. У бібліятэцы Ф. (больш за 1 тыс. тамоў) былі кнігі па гісторыі Беларусі і Літвы, бел. і літ. выданні 18—20 ст. Свае артыкулы па гісторыі краю друкаваў у «Витебских губернских ведомостях». Складальнік і ініцыятар выдання літаратурна-краязнаўчага зборніка «Z okolic Dźwiny» (З ваколіц Дзвіны. Віцебск, 1912). Распрацаваў статут Бел. вольна-эканамічнага т-ва. У 1920 на базе яго калекцый арганізаваны своеасаблівы музей старажытнасцей імя В. Федаровіча, які ў 1924 стаў часткай *Віцебскага абласнога краязнаўчага музея.*

*Літ.*: 514. *Г. А. Каханоўскі.*

**ФІБУЛА** (лац. fibula), шпілька для зашпільвання верхняга адзення ў стараж. народаў. Выраблялiся з бронзы ці жалеза, радзей з золата ці серабра. З'явіліся ў бронзавым веку, у 5 ст. да н. э. былі пашыраны ў кельцкіх (латэнскіх) плямён, ад іх трапілі да германцаў, славян, балтаў. На тэр. Беларусі самыя стараж. Ф. раннелатэнскага тыпу (загнуты ўверх канец ножкі свабодны) з'явіліся ў 3 ст. да н. э., знойдзены на помніках мілаградскай і паморскай культур (*Гарошкаў, Трасцяніца*). У плямён зарубінецкай культуры пашыраны Ф. сярэднелатэнскага тыпу (канец ножкі загнуты ўверх і змацаваны рознымі спосабамі са спінкай, 3—2 ст. да н. э.—1 ст. н. э.) і позналатэнскага тыпу (рамкавая ножка і прамы або прагнуты корпус, 1 ст. да н. э.— 1 ст. н. э.), запазычаныя ў кельтаў (Гарошкаў, *Велямічы, Атвержычы, Чаплін* і інш.). Адначасова плямёнамі зарубінецкай культуры выкарыстоўваліся мясц. тыпы Ф. з трохвугольным шчыткам (Велямічы, Атвержычы, Чаплін і інш.). На тэр. Беларусі, акрамя латэнскіх, трапляюцца ў невял. колькасці шматчасткавыя Ф. і інш. тыпаў: воінскія (1 ст. да н. э.—1 ст. н. э.; Велямічы, *Малышкі, Мілаград*, Чаплін і інш.); «боеў» (канец 1 ст. да н. э.— пач. 1 ст. н. э.; Велямічы); «вочкавыя» (1—2 ст. н. э.; *Івань, Курадава, Слабодка*); падвязныя (1—4 ст. н. э.; *Банцараўшчына*, Брэст-Трышын, *Лемяшэвічы, Навасёлкі*, Чаплін); з грэбенем на спінцы (2-я пал. 2 — пачатак 3 ст. н. э.; Брэст-Трышын); пальцавыя (5—7 ст.; Нікольцы) і інш. З канца 1-га тысячагоддзя да н. э. ў плямён зарубінецкай, днепра-дзвінскай, штрыхаванай керамікі культур з'явіліся простыя па канструкцыі падковападобныя Ф., якія складаліся з круглага незамкнёнага корпуса і язычка (*Васількоўка*, Загорцы, *Кастрыца*, Чаплін і інш.). Ф., знойдзеная на гарадзішчы культуры штрыхаванай керамікі Малышкі, упрыгожана эмалямі. Падковападобныя Ф. існавалі доўгі час, найб. пашыраны ў 10—13 ст., адрозніваліся паміж са-



Тыпы фібул першых стагоддзяў н. э. (0—500 гг.).

бой формай канцоў і сячэння карпусоў, мелі арнаментацыю. Выйшлі з ужытку ў 14 ст. Знойдзены ў гарадах Ваўкавыск, Гомель, Лукомль, Мінск, Пінск, Полацк і інш. Некаторыя тыпы Ф. у старажытнарускі час мелі кольца-, сэрцападобную і інш. формы. Сярод рэдкіх знаходак на Беларусі шкарлупінападобныя і роўнаплечуковая Ф. з гарадзішча *Маскавічы* 11—13 ст.

*Літ.*: 62, 385, 636, 902, 1346.
*А. А. Егарэйчанка.*

**ФІКСА́ЦЫЯ АРХЕАЛАГІ́ЧНЫХ ПО́МНІКАЎ**, улік і сістэматызацыя інфармацыі пра помнік (культурны пласт, рэшткі стараж. забудовы і інш.), выяўленыя ў час археал. даследаванняў. Ажыццяўляецца шляхам вядзення *палявой дакументацыі археолага*, а таксама фатаграфаваннем, у асобных выпадках здымкамі на кінастужку.

*Літ.*: 4. *Л. У. Калядзінскі.*

**ФІЛІПО́К**, папулярная на Беларусі ў 1560—70-х г. назва іспана-неапалітанскіх паўталераў і *талераў*, контрамаркіраваных (гл. *Контрамаркіраванне манет) Віленскім манетным дваром* у 1564 (гл. *Талеры «спадчыны каралевы Боны»)*. Назва Ф. звязана са змешчаным на *аверсе* большасці гэтых манет партрэтам караля Іспаніі Філіпа II [1556—98]. Апошнія ўпамінанні Ф. ў беларускіх пісьмовых крыніцах адносяцца да 1577 і 1578.

**ФІ́НА-У́ГРЫ**, група плямён, якія належалі да фіна-угорскай моўнай сям'і. Засялялі лясную зону Усх. Еўропы, бас. верхняй і сярэдняй Волгі, Акі і Камы. У выніку распада агульнасці Ф.-у. (фіна-пермскі перыяд) вылучыліся угры. Пазней ад паволжскіх фінаў аддзяляліся продкі прыбалтыйска-фінскіх плямён, якія рассяляліся на З. Ёсць падставы меркаваць, што яны звязаны з *тыповай грабеньчата-ямкавай керамікі культурай.*

Рассяленне Ф.-у. на вял. абшарах і суседства з плямёнамі іншых моўных груп прывяло да іх дыферэнцыяцыі. Фарміраванне фіна-волжскай агульнасці адносіцца да ранняга жал. веку (*дзякоўская культура*, ці культура тэкстыльнай керамікі). У 2-м тысячагоддзі да н. э. кераміка з тэкстыльным адбіткам пашыралася ў прыбалтыйскім рэгіёне, калі да Ф.-у. ранняга неаліту далучылася насельніцтва дзякоўскай культуры. Гэтым тлумачыцца падабенства фінскіх старажытнасцей прыбалтыйскага і паволжскага рэгіёнаў. Наяўнасць штрыхаванай керамікі ў насельніцтва прыбалтыйскага рэгіёна, а таксама ў Паільменні, бас. рэк Вялікая, Ловаць і ў вярхоўях Зах. Дзвіны дазволіла В. В. Сядову зрабіць выснову, што прыбалтыйска-фінская этнамоўная агульнасць сфарміравалася на той тэр. фіна-угорскага арэалу, дзе мела месца ўзаемадзеянне балцкіх і фінскіх культурных кампанентаў. Большасць лінгвістаў падзяляюць прыбалтыйскіх фінаў на заходнюю (продкі *ліваў*, паўн. эстаў, ямі) і ўсходнюю (продкі паўд. эстаў, водзі, карэлы, весі, чудзі завалочскай) групы, што адпаведна звязана з 1-й і 2-й хвалямі міграцыі з У. Правамернасць такога падзялення прыбалтыйска-фінскага арэалу пацвярджаецца археал. звесткамі: каменныя курганы на З і іх адсутнасць на У; з'яўленне на У у 2-й пал. 1-га тысячагоддзя пясчаных курганоў з трупаспаленнем, што звязана са славянска-фінскім сімбіёзам.

На Беларусі зафіксаваны шматлікія сляды ўплыву Ф.-у. З фіна-угорскім субстратам у значнай ступені звязана гідранімія бас. р. Зах. Дзвіна, прычым прасочваюцца іх сувязі з протафіна-угорскімі (угорскімі) і протасамадыйскімі каранямі. Канцэнтрацыя такіх гідронімаў назіраецца ў паўн.-ўсх. і паўд. частках бел. Падзвіння. На шматлікіх гарадзішчах Пн Беларусі [Буракова каля в. *Новы Болецк*, Загорцы (Гарадоцкі р-н), Мямлі (Аршанскі р-н) і інш.] выяўлена тэкстыльная кераміка і рэчы фіна-угорскага паходжання. Асаблівасці раннесярэдневяковых старажытнасцей тыпу *Банцараўшчыны* ў заходнядзвінскім рэгіёне звязаны з уплывам фіна-угорскіх культурных кампанентаў. У сярэдневяковых паселішчах *Маскавічы, Прудніку*, курганных могільніках Заборныя Гумны (Браслаўскі р-н), *Баркі, Янкавічы* (Расонскі р-н), а таксама ў гарадах Полацк, Віцебск, Браслаў, Лукомль выяўлена шмат прадметаў, якія сведчаць пра фіна-угорскі уплыў.

*Літ.*: 71, 159, 802, 1058, 1248, 1313.
*В. І. Шадыра.*



**Фларын. Ф л а р э н ц ы я, 1322.**

**ФЛАРЫ́Н** (італьян. florе ад лац. flos кветка), сярэбраная і залатая манеты Зах. Еўропы позняга сярэднявечча і новага часу. 1) Сярэбраная манета г. Фларэнцыя канца 12—13 ст. (*лігатурная маса* каля 1,80 г), германскіх дзяржаў і імперскіх гарадоў у Нідэрландах 16—17 ст., герцагства Таскана з 1826, Англіі з 1848. 2) Залатая манета г. Фларэнцыя (маса каля 3,53 г), упершыню выпушчаная ў 1252. На *аверсе* — герб горада (кветка лілеі); на *рэверсе* — постаць Іаана Хрысціцеля (патрон горада).

Назва Ф. тычылася і сярэбраных манет, таму залаты Ф. называлі florino d'oro. На ўзор Ф. залатую манету чаканілі інш. італьянскія гарады: (Венецыя — *дукат* з 1284). Ф. Чэхіі і Венгрыі, т. зв. дукат угорскі, быў пашыраны на тэр. Польшчы і ВКЛ. У германскіх дзяржавах з 14 ст. атрымаў назву гульдэн, у іншых краінах — дукат. У Польшчы і ВКЛ венгерскі Ф. у 1426 каштаваў 24 *грошы пражскія*, у 1470 — 32, 1943 — 30 *грошаў польскіх*.

*Літ.*: 1565, 1693. *В. С. Касмылёў.*

**ФЛО́РА** (ад лац. Flora багіня кветак і вясны), гістарычна складзеная сукупнасць відаў раслін, якія растуць (сучасная Ф.) або раслі (выкапнёвая Ф.) на пэўнай тэрыторыі. Паводле тэрытарыяльных рангаў сярод сучаснай Ф. вылучаюць Ф. Зямлі, мацерыкоў, астравоў, горных сістэм, асобных дзяржаў і раёнаў, паводле таксанамічнай прыналежнасці відаў — Ф. вышэйшых і ніжэйшых раслін і больш дробных груп — Ф. імхоў, водарасцей, грыбоў і інш. Кожная Ф. мае свае ўласцівасці — пэўную разнастайнасць, узрост, ступень суадносін карэнных відаў і тых, якія рассяліліся, наяўнасць раслін, пашыраных толькі ў адным рэгіёне,— эндэмікаў і інш. Вывучае Ф. раздзел батанікі — фларыстыка. У складзе Ф. Беларусі больш за 1,5 тыс. відаў сасудзістых раслін.

Размяшчэнне рэспублікі ў пераходнай паласе ад еўрап. хваёва-ляснои да еўрап. шыракаліста-лясной і блізкасць лесастэпавай зоны, складаная пацвярцічная гісторыя (гл. *Антрапаген*) вызначылі значную таксанамічную неаднароднасць Ф. Беларусі — наяўнасць розных геаграфічных і генетычных элементаў: гіпаарктычных, таежных, лесастэпавых, стэпавых, старажытнаміжземнаморскіх і інш. Археал. матэрыялы, якія маюць рэшткі Ф., выкарыстоўваюць для вывучэння прыроднага асяроддзя мінулага, яго ролі ў жыцці чалавека, для стратыграфіі помніка. Раслінная рэчыва, якое больш-менш захавалася, называюць фіталеймам (споры, пылок, насенне і інш.). Асн. метады вывучэння раслінных рэштках — арганаграфічны (вывучэнне адбіткаў), паліналагічны (спора-пылковы), палеаксілалагічны (шліфы акамянеласцей), палеакарпалагічны (даследаванне насення, пладоў).

*Літ.*: 542, 1249. *Н. П. Александровіч.*

**ФО́ЙНА**, гарадзішча ранняга жал. веку каля в. Фойна Магілёўскага р-на. На паўд. ускраіне вёскі. Пляцоўка авальная, памер 40×35 м, узвышаецца над поймай Дняпра на 7—10 м. З Пн умацавана валам выш. да 3 м. Яшчэ 2 валы прасочваюцца з Пд: выш. аднаго 2 м, другога 1,5 м. Адкрыў у 1974 Я. Г. Рыер, абследавала ў 1977 Л. У. Дучыц. У шурфах знойдзена ляпная таўстасценная кераміка.

С т а я н к а позняга мезаліту (6—5-е тысячагоддзі да н. э.). За 3 км на З ад вёскі, на 1-й надпоплаўнай тэрасе левага берага Дняпра. Выявіў у 1975, даследаваў 110 м² у 1980 і 1985 В. Ф. Капыцін. Культурны пласт да 1 м.

Знойдзены крамянёвыя тронкавыя наканечнікі стрэл грэнскага тыпу, ланцэтападобныя вастры, канцавыя скрабкі.

прылады з выемкамі, бакавыя разцы, рэтушоры, адшчэпы, пласціны.

*Літ.*: 566, 570.

*Л. У. Дучыц, В. Ф. Капыцін.*

**ФОЛІС** (лац. follis мяшэчак, кашалёк). 1) Рымская імперыя. У 3—4 ст. медная з нязначным (2—4 %) дамешкам серабра манета (уведзена ў 293—296) і грашова-лікавае паняцце (Ф. золата — 72 *соліды*, Ф. серабра — 1000 *міліярысіяў*, Ф. медзі — 250 медных манет). 2) Візантыйская імперыя. Медная манета і яе фракцыі, уведзеныя імператарам Анастасіем I [491—518]. Спачатку мелі адзнакі наміналу: Ф.— M або XXXX (40 нуміяў), 1/2 Ф.— K (20 нуміяў), 1/4 Ф.— I (10 нуміяў), 1/8 Ф.— E (5 нуміяў). Вядомы адзінкавыя знаходкі Ф. 10—11 ст. на тэр. Беларусі.

*Літ.*: 1585.

**ФОНД** (лац. fundus аснова, база) у археалогіі, назапашванне, збор матэрыялаў, друкаваных прац, дакументаў, археал. і гіст. крыніц з мэтай іх выкарыстання. Утвараецца ў выніку дзейнасці адной асобы або арганізацыі. Пералік Ф. і іх змест запісваюцца на спец. бланкі, атрыманая інфармацыя ўводзіцца ў базы даных ЭВМ (гл. *Інфарматыка*), што дазваляе аператыўна выкарыстоўваць як матэрыялы ранейшых даследаванняў, так і найноўшыя звесткі пра дасягненні ў галіне археалогіі.

**ФРАНОПАЛЬ,** група археал. помнікаў эпохі Кіеўскай Русі (2-я пал. 10 ст.) каля в. Франопаль Брэсцкага р-на.

Гарадзішча. За 500 м на ПдЗ ад вёскі, за 100 м ад каналізаванага старога рэчышча р. Рыта, ва ўрочышчы Акоп, на мысападобным выступе 1-й надпоплаўнай тэрасы. Пляцоўка гарадзішча ўмацавана кальцавым земляным валам дыям. 30 м і выш. 1,5—2,5 м. Яна паступова паніжаецца ад краёў да цэнтра, дзе мае глыб. 1,4 м у адносінах да вала. Выявілі ў 1970 П. Ф. Лысенка і Т. М. Каробушкіна, абследавалі ў розны час Ю. У. Кухарэнка, Каробушкіна, В. С. Вяргей і М. М. Крывальцэвіч, раскопкі праводзіў у 1988 і 1990 А. В. Іоў. У паўд.-ўсх. частцы гарадзішча ўскрыта 202 м². Культурны пласт 0,6—1,2 м.

Знойдзена вял. колькасць абломкаў ганчарнага посуду, жал. нажы, наканечнікі стрэл і коп'яў, баявыя сякеры, калачападобныя крэсівы, кубічны спружынны замок тыпу «А», пракрыжаванне і бронзавы ажурны наканечнік ножан мяча, шкляныя пацеркі, шыферныя праслiцы і інш. Па краі пляцоўкі выяўлены рэшткі драўляных канструкцый — абгарэлыя плахі, размешчаныя перпендыкулярна валу. Ва ўсх. частцы пляцоўкі каля вала расчышчана прамавугольная яма (0,85×1×1,2 м). Дно яе ўсцілала драўляная падлога, на якую быў апушчаны 1—2-вянковы зруб з дубовых дошак таўшч. 5 см. Верхняя частка сценак ямы ўмацавана камянямі, паміж якімі знойдзены гліняны гаршчок з абпаленымі зярнятамі проса. Гарадзішча існавала, відаць, на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў і загінула ў выніку нападу варожай дружыны.

Селішча. Размешчана на краі тэрасы вакол гарадзішча. Пл. каля 1 га. Выявілі ў 1970 Лысенка і Каробушкіна. У 1988 Вяргей і Крывальцэвіч заклалі шурф памерам 0,5×0,5 м. Раскопкі праводзіў у 1989 Іоў. Ускрыта 240 м². Культурны пласт 0,4—1,5 м. Знойдзены жал. нажы, утулкавыя наканечнікі стрэл, шкляныя пацеркі, рэшткі ганчарнага посуду і інш.

*А. В. Іоў.*

**ФРЭСКА** (італьян. fresco, літар. свежы), размалёўка па тынку, якая пры высыханні ўтварае тонкую празрыстую плёнку, што замацоўвае фарбы і робіць Ф. даўгавечнай; тэхніка манументальнага жывапісу, а таксама твор, выкананы ў гэтай тэхніцы. Тэхнічныя разнавіднасці: а фрэска — па свежай тынкоўцы, а сэка — па сухой тынкоўцы, а таксама казеіна-вапнавы жывапіс. Для Ф. выкарыстоўваюць парашкі мінеральных пігментаў (охра, умбра, кобальт і інш.), расцёртыя на чыстай ці вапнавай вадзе або водна-клеявым растворы. Сувязным рэчывам паміж асновай і фарбавым слоем з'яўляецца вапна. Палітра фрэскавага жывапісу звычайна стрыманая, пры высыханні фарбы моцна блякнуць. Тэхніка Ф. вядома з 2-га тысячагоддзя да н. э. ў эгейскім мастацтве, была адной з асноўных у антычным і візантыйскім мастацтве.



**Фоліс.** Рымская імперыя: 1. Флавій Север [305—307]. 2. Юліян Адступнік [«№—363]. Візантыя: 3. Ананім, 10—11 ст.



Наканечнік ножнаў мяча 10—11 ст. з **Франопаля.**

Жывапісныя прыёмы візантыйскіх майстроў паўплывалі на работу стараж.-рус. мастакоў. На Беларусі найб. стараж. фрэскавыя размалёўкі захаваліся ў інтэр'еры *Полацкага Сафійскага сабора.* Унікальныя творы стараж. мастацтва — Ф. *Полацкай Спаскай царквы* (12 ст.). Ф. былі аздоблены інтэр'еры Барысаглебскай царквы ў Полацку (гл. *Бельчыцкія храмы), Віцебскай царквы Звеставання, Гродзенскай Барысаглебскай царквы.* Манументальны жывапіс 14—16 ст. развіваўся ў цеснай сувязі з мастацтвам інш. славянскіх народаў. На манументальны жывапіс 17—18 ст. істотна паўплывалі эстэтычныя прынцыпы зах.-еўрап. мастацтва таго часу. У размалёўках культавых будынкаў праявіліся рысы барока: Ф. Мікалаеўскай царквы (17—18 ст.) і кляштара кармелітаў у Магілёве (1-я пал. 18 ст.), кляштара езуітаў у Нясвіжы (1752), кляштара кармелітаў у Мсціславе (сярэдзіна 18 ст.), царквы Раства Багародзіцы ў Слаўгарадзе (канец 18 ст.) і інш.

*Літ.*: 373, 929, 1273.

*Н. Я. Трыфанава.*

**ФУ́РСАЎ** Мацвей Васілевіч [г. і месца н. невяд.— 26.5(8.6).1901], беларускі археолаг і краязнавец, педагог. Чл.-кар. Маскоўскага археал. т-ва (1893). Правадзейны стацкі саветнік. Працаваў настаўнікам гісторыі, дырэктарам Магілёўскай класічнай гімназіі, рэдактар неафіцыйнай часткі *«Могилёвских губернских ведомостей»*. Вёў археал. раскопкі ў перыяд падрыхтоўкі да *Археалагічнага з'езда дзевятага* (Вільня, 1893). Праводзіў экспедыцыі ў басейне Дняпра. У 1892 даследаваў рэшткі мамантаў у Аршанскіх вапнавых капальнях. Разам з С. Ю. *Чалоўскім* склаў карту археал. помнікаў Магілёўскай губ. На 9-м археал. з'ездзе зрабіў рэферат і прадставіў фатаграфіі стараж. цэркваў, розных гіст. прадметаў, валуноў з геральдычнымі знакамі з лесу каля мяст. Пятровічы Клімавіцкага пав., факсіміле стараж. рукапісаў і інш. Апісанні знаходак змешчаны ў «Памятнай кнізе Магілёўскай губерні». Адзін з аўтараў кнігі «Вопыт апісання Магілёўскай губерні» (кн. 1—3. Магілёў, 1882—84).

*Тв.:* Исторический очерк Могилёвской губернии. Могилёв, 1882; Дневник курганных раскопок, произведенных по поручению г. начальника Могилёвской губернии А. С. Дембовецкого в течение лета 1892 г. в уездах Рогачевском, Быховском, Климовичском, Чериковском и Мстиславльском. Могилёв, 1892 (разам з С. Ю. Чалоўскім); Поселения Смоленских кривичей в пределах Могилёвской губернии // Могилёвские губернские ведомости. 1895. № 70; Описание Могилевского музея. Могилев, 1898. *Г. А. Каханоўскі.*

# Х

**ХАЛО́ПЕНІЧЫ,** гарадзішча і селішча каля в. Халопенічы Глускага р-на.

Г а р а д з і ш ч а *мілаградскай культуры* і *зарубінецкай культуры.* За 1 км на ПдЗ ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадзішча, на невысокім узвышшы сярод асушаных балот. Пляцоўка амаль круглая, дыям. 74 м. Умацавана земляным валам выш. 1,6 м, шыр. 16 м. Вядома з 1924, абследавалі ў 1930 А. Рынейскі, у 1960 Л. Д. Побаль, даследаваў 220 м² у 1978 А. А. Егарэйчанка. Культурны пласт каля вала 0,7 м, бліжэй да цэнтра пляцоўкі 0,3 м. Прарэзка вала паказала, што паселішча ўзнікла ў канцы 6 ст. да н. э. Спачатку, відаць, было абкружана драўлянай сцяной (пад асновай вала прасочаны слупавыя ямы). Пазней на месцы сцяны насыпаны земляны вал выш. больш за 1 м, шыр. 7,5 м з дадатковымі драўлянымі ўмацаваннямі на грэбені. Пасля змены мілаградскіх плямён зарубінецкімі вал умацаваны дадатковай падсыпкай да выш. 1,6 м. Выяўлена шмат ям ад слупоў і некалькі гасп. ям чашападобнай і званападобнай формы.

Знойдзены ляпная кераміка мілаградскай і зарубінецкай культур (15 % яе мела штрыхаваны арнамент), посуд з высокім, адагнутым вонкі венчыкам і моцна прафіляваным тулавам (частка арнаментавана ямкамі на шыйцы), грубаляпныя гаршкі без арнаменту, жал. нож для жніва, фрагмент наканечніка кап'я, трапецападобная падвеска, фрагмент бронзавага бранзалета, гліняныя прасліцы.



Агульны выгляд гарадзішча **Хатомель.**

Гарадзішча датуецца 2-й пал. 1-га тысячагоддзя да н. э.— пач. 1-га тысячагоддзя н. э.

С е л і ш ч а ранняга жал. веку і эпохі феадалізму. За 700 м на ПдУ ад гарадзішча. Пл. каля 3 га. Вядома з 1924. Абследавалі ў 1930 А. Рынейскі, у 1964 Л. Д. Побаль. Знойдзены дробныя фрагменты ляпной і ганчарнай керамікі.

*Літ.*: 358, 1022. *А. А. Егарэйчанка.*

**ХАМІ́ЧЫ,** гарадзішча мілаградскай і зарубінецкай культур каля в. Хамічы Рагачоўскага р-на. За 1,5 км на Пн ад вёскі на мысе каля ўпадзення р. Дабрыца ў р. Друць. З паўн. і паўн.-ўсх. бакоў схілы мыса стромкія, іх выш. над поплавам 6,5—7 м; з Пд, З і У умацавана валам (перакапаны акопамі і ямамі). За валам прасочваецца роў са спадзістымі схіламі. Пляцоўка авальная, памер 40×30 м. Вядома з 1873. Абследаваў у 1976 А. Р. Мітрафанаў. Культурны пласт прасочаны на пляцоўцы (0,2×0,3 м) і ў насыпах вала. Знойдзены фрагменты ляпных гліняных пасудзін. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.*: 1046. *А. Р. Мітрафанаў.*

**ХАРЛАМПО́ВІЧ** Павел Васілевіч (4.2.1884, в. Рагачы Бярозаўскага р-на — ?), беларускі нумізмат. У 2-й пал. 1920-х г. дырэктар Бел. дзярж. музея, член гісторыка-археал. і этнаграфічнай секцый Ін-та бел. культуры, выкладчык БДУ.

*Тв.*: Справаздача Беларускага дзяржаўнага музея // Асвета. 1925. № 3; Праскія грошы ў беларускіх манетных скарбах // Гіст.-археал. зб. Мн., 1927. № 1; Манетныя скарбы, знойдзеныя ў Беларусі, у зборах Беларускага дзяржаўнага музея // Тамсама. *В. У. Скалабан.*

**ХАТО́МЕЛЬ,** група археал. помнікаў каля в. Хатомель Столінскага р-на, за 2 км на ПдЗ ад вёскі, каля хутара Гарадзішча.

Г а р а д з і ш ч а. На зах. ускраіне пагорка, паміж балоцістай нізінай і старыцай ручая. Пляцоўка авальнай формы, памерам 40×30 м, умацавана валам і ровам (захаваліся з зах. і ўсх. бакоў). Адкрыў і даследаваў польскі археолаг Р. Якімовіч, даследавалі ў 1953 Б. В. Міралюбаў, у 1954—57 Ю. У. Кухарэнка, у 1964 І. П. Русанава. Культурны пласт 0,4—2,5 м. Уздоўж унутранага схілу вала ў мацерыку выяўлены вял. карытападобныя ямы, запоўненыя вуголлем, каменнем, фрагментамі ляпнога посуду культуры тыпу *Карчак.* У адной з ям знойдзены абломак трохлопасцевай жал. стралы аварскага тыпу (датуецца рубяжом 7—8 ст.). Ямы на глыб. 1 м перакрыты попельна-вугальнай праслойкай. У верхнім гарызонце культурнага пласта выяўлены рэшткі агнішчаў і слупавых ям, фрагменты ляпной керамікі культуры тыпу *Лука Райкавецкая.* рэшткі ганчарнага посуду, металічныя наканечнікі стрэл і дзідаў, сярэбраныя скроневае сяміпрамянёвае кольца і фрагмент бранзалета з расшыранымі канцамі, жал. спражка. пласціны даспехаў і інш. Знаходкі даюць падставу датаваць ніжні гарызонт 7 ст., верхні — 8—10 ст. Гарадзішча не было заселена, з'яўлялася сховішчам, пазней — грамадскім цэнтрам, месцам сходаў.

С е л і ш ч а. На У і З ад гарадзішча. Пл. 5—6 га. Культурны пласт 0,2—0,5 м. Даследавалі ў 1964 Кухарэнка і Русанава (16 жытлаў). Прамавугольныя ў плане паўзямлянкі (пл. 12—30 м², паглыблены ў

мацярык на 0,1—0,8 м) мелі роўную земляную падлогу і сцены з двайнога плятня, абмазанага глінай. Абаграваліся круглымі ў плане (дыям. 0,8—1,5 м, таўшч. сценак 8—9 см, пода — 5—10 см) глінабітнымі печамі на драўляным каркасе, размешчанымі ў куце або каля сцяны. Некаторыя печы пабудаваны на месцы агнішчаў. У жытлах выяўлены гасп. ямы, слупавыя прыбудовы.

Знойдзена ляпная кераміка (адпавядае фрагментам з верхняга гарызонту гарадзішча), ганчарны посуд, жал. нажы, сярпы, долаты, тачыльныя брускі, гліняныя і шыферныя прасліцы, рыбалоўныя восці.

Бескурганны могільнік. За 200 м на ПдУ ад гарадзішча. Адкрыты ў час земляных работ. На глыб. 0,6 м у ямцы знойдзены перавернуты ляпны гаршчок з кальцынiраванымі касцямі, абкладзены камянямі.

Х.— адзін з першых раннеслав. помнікаў 2-й пал. 1-га тысячагоддзя н. э., даследаваных на Пд Беларусі і ПнЗ Украіны. Выкарыстоўваецца як эталон для датавання іншых археал. аб'ектаў.

*Літ.*: 639а, 641, 999. *В. С. Вяргей.*

**ХАЎХОЛІЦА,** курганныя могільнікі каля в. Хаўхоліца Барысаўскага р-на.

Курганны могільнік-1. За 1,5 км на Пн ад вёскі. 45 круглых курганоў і некалькі магіл, абкладзеных камянямі. У 1931 А. М. Ляўданскі даследаваў 2 курганы, 1 магілу. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў ямах галавой на З. Знойдзены каменны крыжык, абкладзены сярэбранымі арнаментаванымі бляшкамі. Курганы датуюцца 11—12 ст., магілы — 13—14 ст.

Курганны могільнік-2. За 1 км на У ад вёскі, каля дарогі ў в. Востраў. 12 насыпаў, большасць выш. 1—1,8 м, дыям. 4—5 м. Каля некаторых ёсць раўкі. Некалькі насыпаў пашкоджана пры пракладцы дарогі, раней тут было 25 курганоў. Абследаваў у 1979 В. А. Карпека. Знойдзены шкілет чалавека і гліняны гаршчок з патоўшчаным краем (11 ст.).

*Літ.*: 718. *Г. В. Штыхаў.*

**ХАЦІНАВА,** курганны могільнік дрыгавічоў каля в. Хацінава Камянецкага р-на. За 1,2 км на Пд ад вёскі, на правым беразе р. Сабалёўка, з правага боку ад шашы Відамля — Высокае. Захаваўся 31 насып выш. 0,3—1 м, дыям. 3,2—6 м, каля асновы абкладзены камянямі. Мясц. назва Шведскія магілы. Адкрыў у 1937 К. Салевіч, даследавалі ў 1960 І. В. Біруля (10 насыпаў), у 1981—83 Т. М. Каробушкіна (11 насыпаў). Пахавальны абрад — трупапалажэнне (у 20 курганах) галавой на З, у выцягнутым становішчы, у насыпе, на гарызонце і ў падкурганных ямах, зрэдку на попельна-вугальнай падсыпцы. У адным з курганоў трупаспаленне па-за яго межамі. Пахаванні ў асноўным адзіночныя.

Знойдзены фрагменты ганчарнага посуду, цэлыя гаршкі, упрыгожаныя лінейным і хвалістым арнаментам, прасліцы з шэрага і ружовага сланцу, металічныя спражкі, каваныя цвікі, скроневыя кольцы (драцяныя паўтараабаротныя і з S-падобным завітком на канцы), кручаныя пярсцёнкі з бронзы. Знойдзена таксама скроневае кольца з загнутым канцом і абматанае тонкім дротам (т. зв. «кудравае») — адзіная такая знаходка на тэр. Бел. Пабужжа, зрэдку сустракаецца на тэр. Усх. Еўропы.

Могільнік датуецца 11—12 ст.

*Літ.*: 587. *Т. М. Каробушкіна.*

**ХВАШЧОЎКА,** археал. помнікі каля в. Хвашчоўка Хойніцкага р-на.

Паселішча эпохі неаліту. За 800 м на ПнЗ ад вёскі, на ўсх. схіле пясчанага ўзвышша (выш. над поплавам р. Прыпяць 12—15 м). Выявіў у 1960 і абследаваў у 1976, 1980 У. Ф. Ісаенка. Культурны пласт 0,2 м, прасочаны ўздоўж берага на 160 м. Знойдзена 250 апрацаваных крамянёў, 23 крамянёвыя прылады працы, 180 фрагментаў гаршкоў *днепра-данецкай культуры.*

Бескурганны могільнік *тшцінецкай культуры.* За 700 м на Пд ад вёскі, ва ўрочышчы Пясчаніца, на пясчанай градзе. Памер 60×30 м. Выявіла і абследавала ў 1976 Т. М. Каробушкіна.

На паверхні сабраны фрагменты пласкадонных ляпных гаршкоў з ямкавым і лінейным арнаментам, кальцыніраваныя косці, перанесеныя з пахавальнага вогнішча (памер скопішча 2×1,5 м).

Датуецца сярэдзінай 2-га тысячагоддзя да н. э.

*Літ.*: 460, 589.

*У. Ф. Ісаенка, Т. М. Каробушкіна.*

**ХВОЙНА,** група археал. помнікаў у наваколлі в. Хвойна Магілёўскага р-на.

Стаянка ранняга этапу *грэнскай культуры.* За 3,5 км на У ад Магілёва, за 3 км на З ад шашы Ленінград — Адэса, на левым беразе Дняпра, за 2 км вышэй вусця яго прытока р. Хвоенка. Адкрыў у 1975 і даследаваў 500 м² у 1985—89 В. Ф. Капыцін. Культурны пласт цёмна-шэрага колеру. Паўн. частка стаянкі знішчана кар'ерам, тая, што захавалася, даследавана цалкам.

Знойдзены крамянёвыя прылады працы, сярод якіх пераважаюць скрабкі канцавых форм (32 %), скрабкі двайныя (з кароткіх пласцін і адшчэпаў), разцы рэтушныя, на рагу зламанай загатоўкі і двухгранныя (амаль 29 %), наканечнікі стрэл (уласна тронкавыя, асіметрычныя з бакавой выемкай грэнскага тыпу, з крутой рэтушшу краю пяра), вастрыі (ёсць з рэтушаванай асновай), праколкі, вырабы з выемкамі, сякера з двухбаковай выемкай, пласціны-ўкладышы (ёсць з рэтушшу), дробныя асколкі і лускавінкі, адшчэпы, пласціны, нуклеусы.

Стаянка існавала 12—10 тыс. г. таму назад. Інвентар сведчыць пра сувязь са стаянкамі *Грэнск, Бароўка,* Каромка, *Лудчыцы.*

Курганны могільнік эпохі Кіеўскай Русі. На левым беразе Хвоенкі, пры ўпадзенні яе ў Дняпро, за 2 км на З ад шашы Ленінград — Адэса. З насыпы выш. 0,7—1 м, дыям. 10—14 м. На гэтым месцы існавала селішча каменнага веку. Адкрыў у 1968 І. І. Арцёменка. Абследаваў у 1975 і 1989 Капыцін. Культурны пласт 0,1—0,2 м. Выяўлены крамянёвыя пласціны, адшчэпы, невыразныя фрагменты керамікі. Раскопкі не праводзіліся.

Гарадзішча ранняга жал. веку. На правым беразе р. Хвоенкі, паміж вёскамі Хвойна і Агееўка, за 500 м на У ад шашы Ленінград — Адэса, ва ўрочышчы Кучугур. Пляцоўка авальнай формы, памер 36×33 м, вышыня над поймай 6,5—8 м. Арыентавана з Пн на Пд. З боку поля ўмацавана валам выш. да 3 м, з паўд. боку — 2 валамі выш. 2 і 1,5 м. Адкрыў і абследаваў у 1936 В. Р. Тарасенка, абследавалі ў 1974 Я. Р. Рыер, у 1977 Л. У. Дучыц, у 1989 Капыцін, у 1990 А. А. Седзін. У шурфах выяўлены фрагменты гладкасценнай, штрыхаванай і ганчарнай керамікі, попел, вуголле.

*Літ.*: 566, 570, 1155.

*В. Ф. Капыцін, А. А. Седзін.*

**ХІЛЬЧЫЦЫ,** археал. помнікі каля в. Хільчыцы Жыткавіцкага р-на.

Паселішча-1 эпохі мезаліту. За 1 км на Пн ад вёскі, ва ўрочышчы Прыстань. Выявілі ў 1927 А. Дз. Каваленя і С. С. Шутаў, абследаваў у 1976 У. Ф. Ісаенка. У агаленнях дзюны памерам 240×100 м знойдзены невял. крамянёвыя пласцінкі, прылады геам. форм, мікраліты. Датуецца 8—5-м тысячагоддзямі да н. э.

Паселішча-2 эпохі неаліту. За 2 км на ПнУ ад вёскі, ва ўрочышчы Горка. Выявілі ў 1927 Каваленя і Шутаў, абследаваў у 1976 Ісаенка. На пл. 150×45 м знойдзены крамянёвыя прылады працы (скрабкі, разцы, праколкі і інш.) і кераміка з ямачна-грабеньчатым арнаментам. Датуецца 4—3-м тысячагоддзямі да н. э.

Гарадзішча *зарубінецкай культуры* і *мілаградскай культуры.* За 500 м на Пд ад вёскі, на пясчанай дзюне, якая цягнецца на 2,5—3 км уздоўж забалочанай поймы р. Сцвіга, ва ўрочышчы Прыстань. Памер 45×38 м. З боку поля пляцоўка ўмацавана падковападобным валам выш. 1,8 м. Вядома з канца 19 ст. Абследавалі ў 1928 Каваленя і Шутаў, у 1961 Ю. У. Кухарэнка, у 1974 Л. Д. Побаль. Культурны пласт 0,3—0,4 м. Знойдзены кераміка мілаградскай культуры, грубаляпная і глянцаваная кераміка зарубінецкай культуры, прасліцы, характэрныя для помнікаў зарубінецкай культуры, ляпная кераміка, блізкая

да Хатомеля. Матэрыялы даюць падставу меркаваць, што гарадзішча ў 1-й пал. 1-га тысячагоддзя н. э. выкарыстоўвалася плямёнамі зарубінецкай культуры.

Селішча жал. веку. За 2 км на ПдУ ад вёскі, ва ўрочышчы Муравін, на пясчаным узвышшы. Выявіў у 1980 і даследаваў у 1981 Г. М. Залашка (300 м²). Культ. пласт 0,3 м.

Знойдзены фрагменты ляпной керамікі мілаградскай і зарубінецкай культур, расшчэплены крэмень і кальцыніраваныя косці, больш за 600 фрагментаў гаршкоў, бронзавыя наканечнікі стрэл скіфскага тыпу (з шыпам на ўтулцы), трапецападобная падвеска, кольца, фрагмент шпількі, рымская сіняя шкляная пацерка, крамянёвыя наканечнікі стрэл, праслiцы, сярпы, рэшткі жал. вырабаў, гліняных кружкоў невядомага прызначэння.

Датуецца 7—1 ст. да н. э. Узнікла на месцы стаянкі бронзавага веку.

Курганны могільнік дрыгавічоў. За 1 км на ПнЗ ад вёскі, ва ўрочышчы Горка, на выспе. Абследавалі ў 1927 Каваленя і Шутаў (50 курганоў). У 20 насыпах пахавальны абрад — трупаспаленне на гарызонце, у астатніх — трупапалажэнне на гарызонце галавой на З.

Пахавальны інвентар: сярэбраныя скроневыя кольцы, сінія шкляныя, зярнёныя і сердалікавыя пацеркі, васьмігранныя сярэбраныя пярсцёнкі, цвікі ад дамавін, гаршкі. Могільнік разбураны ветравой эрозіяй.

Датуецца 10—11 ст.

*Літ.*: 453, 472, 641, 899.

*Г. М. Залашка, У. Ф. Ісаенка, Л. Д. Побаль, Г. В. Штыхаў.*

**ХОДАСАВІЦКАЕ СВЯЦІЛІШЧА,** языччніцкі культавы помнік 10 — пач. 11 ст. каля в. Ходасавічы Рагачоўскага р-на. За 3,5 км на ПнЗ ад вёскі, на беразе воз. Святое, на ўсх. ускраіне селішча 8—10 ст. (гл. ў арт. *Ходасавічы*). Яго цэнтр. частку складала гарызантальная круглая ў плане пляцоўка дыям. 7 м, абкружаная канаўкай шыр. 0,4 м, глыб. 0,4—0,5 м, у якой, верагодна, стаяў вастракол. У цэнтры круга выяўлена паглыбленне дыям. 1 м, глыб. 0,15 м, у якім стаяў драўляны слуп-ідал. З 4 бакоў на адлегласці да 2 м ад краю пляцоўкі знаходзіліся серпападобныя (у плане карытападобныя) ямы даўж. да 6 м, шыр. 1,8 м, глыб. да 1 м, арыентаваныя па баках свету. У час язычніцкіх рытуалаў у іх запальвалі вогнішчы. Трэцяя паўзямлянка на селішчы, магчыма, з'яўлялася жытлом жраца. Паводле А. В. Кузы і Г. Ф. Салаўёвай, Х. с., верагодна, было прысвечана Перуну.

*Літ.*: 627, 1052.

*Л. У. Дучыц, А. А. Макушнікаў.*

**ХОДАСАВІЧЫ,** археал. помнікі каля в. Ходасавічы Рагачоўскага р-на.

Паселішча-1 эпохі неаліту. За 6 км на ПнЗ ад вёскі, на беразе воз. Дзеднае, на краі берагавой тэрасы. Выявіў і даследаваў у 1959—62 І. І. Арцёменка.

Знойдзена 80 крамянёвых прылад працы (скрабкі, нажы, скрэблы, свярдзёлкі і інш.) і 335 фрагментаў неалітычнага посуду, арнаментаванага пераважна адбіткамі грэбеня. Частка посуду ўпрыгожана ямчастымі ўцісканнямі і наколамі адступаючай лапаткі. Сустракаецца лапчасты арнамент і нарэзкі. На тэр. паселішча 2 курганы сярэднедняпроўскай культуры.

Паселішча-2 эпохі неаліту. За 5 км на З ад вёскі, на левабярэжжы Дняпра, за 150 м ад воз. Хоршава, ва ўрочышчы Палік. Выявіў і



**Ходасавіцкае свяцілішча.** Рэканструкцыя.



Да арт. **Ходасавічы.** Гліняная пасудзіна сярэднеднепроўскай культуры.

даследаваў 48 м² у 1959 Арцёменка. Культурны пласт 0,2—0,25 м.

Знойдзена 30 крамянёвых прылад (пераважна скрабкі), 67 адшчэпаў і кавалкаў крэменю. Выяўлены 454 фрагменты посуду з дамешкам пяску і жарствы ў гліне, упрыгожанага пераважна грабеньчатым арнаментам, а таксама лапчастым, адбіткамі адступаючай лапаткі і ямчастымі наколамі.

Паселішча-3 эпохі неаліту. Ва ўрочышчы Мошка 1-я, на ўсх. беразе воз. Хоршава. Выявіў і даследаваў 80 м² у 1969 Арцёменка.

Знойдзена 88 крамянёвых і каменных прылад, 219 адшчэпаў і кавалкаў крэменю, 481 фрагмент посуду (246 фрагментаў з адбіткамі грэбеня, 55 — з ямчастым арнаментам, 7 — з нарэзкамі і 4 — з лапчастымі ўцісканнямі). Выяўлены таксама фрагменты ганчарнай керамікі і жал. нож.

Усе паселішчы, паводле Арцёменкі, існавалі ў 3-м — пач. 2-га тысячагоддзя да н. э.

Курганны могільнік-1. За 4 км на ПдЗ ад вёскі, ва ўрочышчы Мошка 1-я. 35 насыпаў выш. 1—2 м, дыям. 8—20 м, 9 з іх абкружаны раўкамі. Выявіў у 1951 Ю. У. Кухарэнка. Даследавалі 17 насыпаў у 1959—62 Арцёменка, 10 насыпаў у 1969 С. С. Шырынскі. Выяўлены пахаванні ў авальных і прамавугольных з круглаватымі вугламі ямах (даўж. 2—3 м, шыр. 1,2 м) і рэшткі іх драўляных пакрыццяў. Дно магільных ям пасыпана попелам і вохрай. Пахавальныя абрады — трупаспаленне і трупапалажэнне. Апрача рэштак шкілета чалавека знойдзены бронзавы наканечнік кап'я, акулярападобныя бронзавыя падвескі і наканечнік стралы. Сярод слав. курганоў два 8—9 ст., адзін 11—12 ст. У адным пахаванні (трупапалажэнне галавой на З) знойдзена драцяное скроневае кольца.

Курганны могільнік-2. За 500 м на ПдУ ад курганнага могільніка-1, ва ўрочышчы Мошка 2-я. Захавалася 12 насыпаў выш. 0,6 м, дыям. 12 м. Даследавалі 10 насыпаў у 1959—63 Арцёменка, 8 насыпаў у 1969 г. Г. Ф. Салаўёва. Пахавальны абрад — трупапалажэнне галавой на З (7) і на У (1). Пахаванні на гарызонце (4) і ў ямах (4).

Пахавальны інвентар выяўлены ў 4 насыпах: драцяное кольца, пярсцёнкападобныя скроневыя кольцы, падвескаамулет у выглядзе коніка, пярсцёнкі, шкляныя пацеркі, грузікі-падвескі, фрагменты керамікі і тканіны.

Датуецца 11—12 ст.

Курганны могільнік-3. За 300 м на ПнУ ад курганнага могільніка-2, уздоўж карэннага берага воз. Харшава (урочышча Мошка 3-я). 52 насыпы дыям. 0,5—9 м, выш. 0,4—20 м. Даследаваў у 1956—63 Арцёменка.

Знойдзены ганчарны гаршчок і фрагменты ляпной пасудзіны 5—7 ст., пазалочаныя шкляныя пацеркі, медныя і шкляныя пярсцёнкі, бісер, абломкі пл[illegible]най грыўні і крыжыкаў, крыжападобныя і змеегаловападобныя падвескі, жал. нож.

Датуецца 11—12 ст.

Селішча. За 3,5 км на ПнЗ ад вёскі, на левым беразе Дняпра, на мысе пясчанай дзюны, абмежаваным з З воз. Добрае (Святое), з Пн безназоўным ручаём. Выявілі і даследавалі ў 1969 А. В. Куза і Салаўёва. Знойдзены рэшткі 3 прамавугольных у плане жытлаў-паўзямлянак: адно (памер 3,2×3,7 м) заглыблена ў мацярык на 0,2 м, другое і трэцяе (памеры 3,5×4 м і 4,5×4,5 м) на 0,6 м. У кутах 2 жытлаў знаходзіліся печы-каменкі. У паўзямлянцы печ, відаць, была на дра-

ляным зрубе або апалубцы, чарэнь яе была выкладзена плоскімі камянямі, абмазанымі глінай. У цэнтры жытла знаходзілася авальная перадпечная яма глыб. 0,65 м. У канструкцыю сцен паўзямлянак, магчыма, уваходзілі вертыкальныя слупы, у адным жытле выяўлены 2 слупы каля сцен (магчыма, яны падтрымлівалі двухсхільную страху). Выяўлена ляпная кераміка 2-й пал. 1-га тысячагоддзя н. э. На ўсх. частцы селішча размяшчалася *Ходасавіцкае свяцілішча.*

*Літ.*: 75, 82.

*А. Г. Калечыц, А. А. Макушнікаў.*

**ХОЗЕРАЎ** Іван Макаравіч [24.1 (5.2).1889, Смаленск — 21.3.1947], беларускі і рус. мастацтвазнавец, гісторык архітэктуры. Вучыўся на аддзяленні Маскоўскага археал. ін-та ў Смаленску (1916—19). Да 1941 працаваў у Смаленскім дзярж. музеі, з 1946 начальнік аддзела аховы помнікаў Упраўлення па справах архітэктуры пры СМ БССР. Вывучаў стараж. помнікі архітэктуры і мастацтва Беларусі, Смаленшчыны і інш. У 1926 разам з М. Шчакаціхіным даследаваў *Полацкі Сафійскі сабор* 11 ст., устанавіў, што яго зах. апсіды прыбудаваны не раней 15 ст. Абследаваў верхнія часткі *Полацкай Спаскай царквы* 12 ст., высветліў пачатковую форму яе акон і значна дапоўніў рэканструкцыю першапачатковага выгляду храма. У 1928 правёў раскопкі Барысаглебскай і Пятніцкай цэркваў 12 ст., Бельчыцкага Барысаглебскага манастыра (гл. ў арт. *Бельчыцкія храмы*), зрабіў абмеры ўцалелых рэштkaў храмаў, сфатаграфаваў, часткова замаляваў фрэскавую размалёўку помнікаў. На падставе вывучэння ім полацкіх помнікаў 11—12 ст. вучоныя ўстанавілі існаванне самастойнай полацкай архіт. школы і яе моцны ўплыў на смаленскае дойлідства. У 1946 даследаваў *Гродзенскую Барысаглебскую царкву.* Дакладная методыка яго даследаванняў дазволіла вучоным рабіць грунтоўныя вывады, выкарыстоўваць у сваіх працах яго ненадрукаваныя матэрыялы.

*Тв.*: Да пытання аб Спасаўскай царкве ў Полацку // Гіст.-археал. зб. Мн., 1927. № 1; Полацкае будаўніцтва старадаўняга перыяду // Запіскі аддзела гуманітарных навук БАН. Мн., 1928. Кн. 6. Працы камісіі гісторыі мастацтва. Т. 1, сш. 1; Полацкая архітэктура XI—XII стагоддзяў у святле новых даследаванняў // Маладосць. 1991. № 6—10.

*Літ.*: 205. *А. А. Трусаў.*

**ХОЙНІЦКІ ЗАМАК.** Існаваў у 17—18 ст. у г. Хойнікі. Пабудаваны ў 1-й пал. 17 ст. князямі Вішнявецкімі. Пазней перайшоў да князёў Прозараў, з 1698 уладанне пана Служкі, у якога ў 1721 замак выкупіў біскуп Юзаф Парышэвіч. Займаў невял. пясчаную дзюну ў забалочанай пойме р. Квеся. Выцягнутая з Пн на Пд авальная пляцоўка замка (35×25 м) была абкружана запоўненым вадой ровам, які з боку мястэчка меў шыр. 28—30 м, з інш. бакоў — 15—18 м. Акрамя таго, замак быў абаронены вял. поймай. Сувязь з горадам ажыццяўлялася па дамбе і драўляным мосце. На земляным вале стаялі драўляныя абарончыя сцены-гародні. Была таксама ўязная вежа з варотамі. Паводле інвентара за 1721, Х. з. быў абнесены парканам, меў двухпавярховую ўязную вежу, зрубленую з брусоў і накрытую дранкай. Першы паверх вежы займалі ўязны праезд з варотамі і 2 памяшканні, адведзеныя пад турму, другі — невял. зала са шклянымі вокнамі ў драўляных рамах. На ўзроўні другога паверха, укругавую, ішоў балкон. На падворку замка знаходзіліся гасп. пабудовы. Па нязначным культурным пласце (20—40 см), у якім выяўлена паліваная кераміка 17—18 ст., можна меркаваць, што жыццё ў Х. з. было малаінтэнсіўным і спынілася ў 18 ст. Аднак і ў наш час жыхары Хойнікаў гэта месца называюць «замак».

*М. А. Ткачоў.*



Пахавальны інвентар сярэднедняпроўскай культуры з курганнага могільніка **Ходасавічы.**

**ХОЛМЕЧ,** курганны могільнік каля в. Холмеч Рэчыцкага р-на. За 1 км на Пд ад вёскі, ва ўрочышчы Дубовіцы (б. маёнтак). У 19 ст. было 113 курганоў, захаваліся рэшткі 10 насыпаў. Даследаваў 19 насыпаў у 1890 У. З. Завітневіч. У 7 курганах выяўлены пахаванні па абраду трупаспалення, у 2 — косці свойскай жывёлы (магчыма, сяляне выкарыстоўвалі стараж. курганы для закопвання загінуўшай жывёлы). У 10 курганах пахавальны абрад — трупапалажэнне ў дамавінах галавой на З. Знойдзены жал. сякеры, каля рук нябожчыкаў — кубкі з чарапахі, адзін — з чэрапа чалавека. Датуецца 10—12 ст.

*Літ.*: 379. *Г. В. Штыхаў.*

**ХОЦІМКА,** комплекс археал. помнікаў каля в. Хоцімка Шклоўскага р-на. Вядомы пад назвай *Стары Шклоў.*

Г а р а д з і ш ч а. За 500 м на У ад вёскі, за 4 км ад Шклова, на левым беразе р. Серабранка, ва ўрочышчы Гарадок. Пляцоўка памерам 70×60 м, выш. над поймай ракі каля 15 м. З трох бакоў абмываецца р. Серабранка. З Пн і ПнУ прасочваюцца рэшткі вала выш. 1,8 м. Адкрылі ў 1850 М. Балінскі і Т. Ліпінскі, абследавалі ў 1948 В. Р. Тарасенка, у 1964 Г. В. Штыхаў, даследавала ў 1979 В. М. Ляўко. Культурны пласт 0,3—1 м.

Знойдзены ганчарная кераміка, шкляныя бранзалеты, жал. вырабы эпохі Кіеўскай Русі і ВКЛ.

С е л і ш ч а - 1. Насупраць гарадзішча, на правым беразе р. Серабранка. Даследавала 32 $м^2$ у 1978—79 Ляўко. Культурны пласт 0,4—0,8 м. Прасочаны рэшткі слупавых канструкцый у мацерыку.

Сярод знаходак кручаныя шкляныя бранзалеты, 2 жал. нажы, тачыльны брусок, каменнае ядро, металічная накладка, фрагменты гаршковай кафлі: кераміка старажытнаруская і 14—16 ст. з рэльефным арнаментам.

Датуецца 12—16 ст.

С е л і ш ч ы - 2—4. На левым карэнным беразе р. Серабранка, адно ад аднаго аддзелена прасёлачнай дарогай. Даследавала ў 1979 Ляўко. Культурны пласт прасочваецца на прысядзібных участках в. Стары Шклоў. Найб. шматлікія знаходкі на селішчы-2 паблізу гарадзішча. Паміж селішчамі-3 і 4, верагодна, знаходзіліся могілкі.

Знойдзена шмат керамікі, манеты 1509 і 17 ст., фрагмент бронзавага нацельнага крыжа, арнаментаваная бронзавая накладка.

К у р г а н н ы м о г і л ь н і к. За 500 м на ПдЗ ад вёскі, на правым беразе р. Серабранка. 3 насыпы выш. 1,5 м. Абследавала ў 1979 Ляўко.

Вывучэнне помнікаў сведчыць, што яны заселены ў эпоху Кіеўскай Русі. Цэнтрам, што аб'ядноўваў усе паселішчы, з'яўлялася гарадзішча, якое, магчыма, было феадальнай сядзібай ці пунктам збору даніны на дняпроўскім шляху. Ва ўрочышчы Зязюлін Роў, дзе знойдзены каменны ідал 10 ст., верагодна, знаходзілася язычніцкае свяцілішча. Выгаднае геаграфічнае становішча спрыяла развіццю паселішча і ў складзе ВКЛ. У 1535 упершыню згадваецца ў пісьмовых крыніцах як горад Шклоў. Гл. таксама *Стары Шклоў.*

*Літ.*: 673, 1340. *В. М. Ляўко.*

**ХОЦІМСК,** гарадскі пасёлак, цэнтр Хоцімскага р-на. На левым беразе р. Беседзь пры ўпадзенні ў яе рэк Альшоўка і Жадунь. Упершыню Х. упамінаецца ў 1430 як вёска Хоцімль у ВКЛ. З 16 ст. вёска ў Мсціслаўскім ваяводстве. У час Крычаўскага антыфеад. паўстання ўзброены сялянскі атрад Кастуся Вашчылы ў маі — чэрвені 1740 зруйнаваў паташныя прадпрыемствы. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай Х. з 1772 у складзе Расійскай імперыі.

На правым беразе р. Беседзь па вул. Набярэжнай захавалася г а р а д з і ш ч а. Пляцоўка авальная, памер 45×35 м, узвышаецца над узроўнем вады ў рацэ на 8 м. З Пн, ПнЗ і ПдЗ умацавана валам (уцалеў часткова) выш. каля 2 м. Вядома з 1873, абследавалі ў 1945 К. М. Палікарповіч, у 1974 Я. Р. Рыер, у 1978 В. Е. Собаль. Культурны пласт каля паўд.-ўсх. краю пляцоўкі 0,5 м, у цэнтры 0,1 м. Знойдзена кераміка мілаградскай культуры.

За 500 м на Пд ад гар. пасёлка, у хваёвым лесе знаходзіцца к у р г а н н ы м о г і л ь н і к. 32 насыпы дыям. 6—12 м, выш. 0,5—2 м. Вядомы з 1873, 4 курганы ў 1892 раскапаў С. Ю. Чалоўскі. Пахавальныя абрады — трупапалажэнне і трупаспаленне. Абследавалі ў 1974 Рыер, у 1978 Собаль. Адносіцца да эпохі Кіеўскай Русі.

*Літ*: 1046. *В. Е. Собаль.*

# Ц

**ЦАГЕ́ЛЬНЯ,** курганны могільнік дрыгавічоў каля в. Цагельня Рагачоўскага р-на. За 600 м на ПдУ ад вёскі, на правым беразе ручая. Захавалася 47 насыпаў: 15 выш. 1,5—2,8 м, дыям. 1,5—8 м, 32 выш. 3—5 м, дыям. 10—17 м. Вакол кургано́ў прасочваюцца раўкі. Адкрыты ў 1924, у 1977 абследаваў А. Р. Мітрафанаў, 7 курганоў у 1985 даследавалі А. М. Плавінскі і В. Н. Рабцэвіч. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў ямах (глыб. 0,4—1 м) на гарызонце, галавой на З. У трох пахаваннях нябожчыкі былі абкладзены плахамі.

Знойдзены фрагменты ганчарнага посуду, глінянае прасліца, бронзавыя ўпрыгожанні — бранзалет, пярсцёнкі, падвескі, зорчатыя бочачкападобныя шкляныя пацеркі.

Датуецца 12—13 ст.

*А. М. Плавінскі.*

**ЦАЛКІН** Веньямін Іосіфавіч [8(21).12.1903, г. Ніжні Ноўгарад — 10.3.1970], савецкі заолаг. Д-р біялагічных навук (1947). Скончыў Маскоўскі ун-т (1928). З 1946 у Ін-це гісторыі матэрыяльнай культуры (з 1959 Ін-т археалогіі) АН СССР. Сфармуляваў кірункі і асн. прынцыпы заалагічных даследаванняў у археалогіі. Вывучаў асаблівасці гаспадаркі насельніцтва асобных археал. культур, пытанні паходжання жывёлагадоўлі ва Усх. Еўропе. На Беларусі даследаваў калекцыі касцявых рэштках з раскопак гарадзішча *Чаплін* і стараж. Гродна.

*Тв.*: Основные задачи изучения костей животных из раскопок памятников материальной культуры // Краткие сообщения Ин-та истории материальной культуры АН СССР. М., 1955. Вып. 58; Материалы для истории скотоводства и охоты в древней Руси. М., 1956 (Материалы и исслед. по археологии СССР; № 51); Животноводство и охота в лесной полосе Восточной Европы в раннем железном веке. М., 1962 (Материалы и исслед. по археологии СССР; № 107); Древнейшие домашние животные Восточной Европы. М., 1970 (Материалы и исслед. по археологии СССР; № 161). *Н. П. Александровіч.*



Дзіцячыя цацкі 16—17 ст. з Віцебска.

**ЦАЛКО́ВЫ,** назва манеты наміналам у *рубель* на тэр. Беларусі, Расіі і Украіны з 2-й пал. 18 ст.

**ЦА́ЦКІ.** Першымі прадметамі для дзіцячых гульняў, мабыць, былі рознакаляровыя каменьчыкі, ракавінкі, шышкі і інш. прыродныя рэчы. Асэнсаваны выраб Ц., верагодна, адносіцца да эпохі неаліту. На стаянках Аляксандраўка, Вешня, Вялікае Арэхава, *Камень, Пагост-Загародск* Пінскага р-на, *Нобель, Сеньчыцы* Ровенскай вобл. выяўлены апрацаваныя крамяні, якія нагадваюць па форме розных жывёл і птушак. У раннім жал. веку ў якасці Ц. маглі выкарыстоўвацца таксама і гліняныя грузікі, рытуальныя збаночкі і хлябцы. На Пн Беларусі часам сустракаюцца галёначныя косці дробных жывёл і птушак з прасвідраванай адтулінай — т. зв. «жужаліцы», вядомыя і пазней па традыцыйных гульнях бел. дзяцей. У перыяд феадалізму Ц. найчасцей выраблялі з гліны, дрэва, скуры, косці, каменю. У Бярэсці, Гродне, Полацку, Мінску, Віцебску ў пластах 12—13 ст. знойдзены драўляныя дзіцячыя мячы, лодкі, рытуальныя булавы. На *Віцебскім Верхнім замку* выяўлены завостраны з абодвух канцоў калочак («клёк») і косць свінні з меткай у выглядзе літары А («бабка»), якія выкарыстоўваліся для гульні ў «чыжа». Пры раскопках гарадоў сустракаюцца мячыкі, сшытыя з 2 кружочкаў скуры дыям. 5—8 см і набітыя поўсцю, пакуллем, сенам, якія выкарыстоўваліся для гульні ў лапту. Ц. з'яўляліся і велікодныя яйкі, якія выраблялі з гліны і косці. У Бярэсці знойдзены велікодныя яйкі з белай гліны, пакрытыя паліхромнай эмалевай размалёўкай, т. зв. *пісанкі.* У Слуцку выяўлена касцяное яйка і фігура вершніка з гліны, пакрытая светла-зялёнай палівай па светлым ангобе (датуецца 13 ст.). У пластах 17 ст. часта сустракаюцца гліняныя свістулькі ў выглядзе розных жывёл і птушак (Віцебск, Мінск, Слуцк), а таксама каменныя і гліняныя шарыкі для гульні ў *мурмель-шпіль.* *Л. У. Калядзінскі.*

**ЦЕРАБЕ́НЬ,** паселішчы позняга неаліту, бронзавага і жал. вякоў каля в. Церабень Пінскага р-на.

П а с е л і ш ч а - 1. За 2 км на У ад вёскі, на правым беразе р. Прыпяць. Даўж. пляцоўкі каля 200 м. Выявілі ў 1955 і даследавалі гасп. яму Ю. У. Кухарэнка і Б. В. Міралюбаў.

У запаўненні ямы (глыб. 0,65 м) знойдзена больш за 300 вял. крамянёвых адшчэпаў-пласцін, каменныя сякеры з усечаным абухом і клінападобныя, фрагменты ляпной керамікі з грабеньчатым і шнуравым арнаментам, косці дзікіх жывёл. У 1963 даследаваў У. Ф. Ісаенка (146 м²), у 1980 В. С. Вяргей. Культурны пласт 0,3—1,1 м. Выяўлены 4 ямныя пахаванні з трупаспаленнем (ранні жал. век), фрагменты керамікі *нёманскай культуры*, крамянёвыя прылады працы і загатоўкі (адшчэпы, разцы, скрабкі, трохвугольны наканечнік стралы і інш.), фрагменты грубаляпных гаршкоў з прачэрчаным і шнуравым арнаментам.

Большасць знаходак датуецца познім неалітам і раннім бронзавым векам.

П а с е л і ш ч а - 2. За 700 м на ПнУ ад вёскі, на пясчаным узгорку левага берага Прыпяці. Пл. 500×150 м. Выявіў і даследаваў у 1975 Ісаенка, у 1981 — Вяргей. Культурны пласт да 0,6 м (збярогся часткова).

Сярод знаходак мезалітычны комплекс (наканечнікі стрэл постсвідэрскага тыпу, канцавыя скрабкі на пласцінах, укладышы), крамянёвыя вырабы позняга неаліту і сярэдняга бронзавага веку (нажы, скрабкі, наканечнікі стрэл, разцы, сякеры), фрагменты арнаментаванага ляпнога посуду, у т. л. гаршкоў мілаградскай і зарубінецкай культур, гліняныя прасліцы, адходы чорнай і каляровай металургіі, кіепадобныя шпількі, пранізкі, жал. спражкі, зялёная паставая пацерка, ганчарная кераміка 9—10 ст.

*Літ.*: 460, 638. *В. С. Вяргей.*

**ЦЕРУХА́,** курганны могільнік радзі-

мічаў каля в. Церуха Гомельскага р-на. Ва ўрочышчы Прудок, у вусці р. Церухі, каля воз. Казар (Казарскае). 30 насыпаў. Даследаваў у 1892 М. М. Філонаў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне.

Знойдзены пацеркі (шкляныя, паставыя, бурштынавыя, сердалікавыя), сяміпрамянёвыя і драцяныя скроневыя кольцы з нізкапробнага серабра, пляскатыя, круглыя і трохгранныя пярсцёнкі, бронзавыя бранзалеты, паясныя кольцы, крэсіва з крэменем, серп, каса, тачыльны камень, бурштынавыя амулеты, гліняны посуд.

Датуецца канцом 10 — пач. 12 ст.

*Літ.:* 981. *А. А. Макушнікаў.*

**ЦУ́ГЛІ,** частка аброці, цiскам якой на язык і куткі рота жывёлы ажыццяўлялася кіраванне канём. Металічныя Ц., вядомыя ў Еўропе з 5 ст. да н. э., складаліся з грызла (1-, 2- ці 3-стрыжнёвага) і бакавых абмежавальнікаў у форме псаліяў ці кольцаў. У слав. старажытнасцях сустракаюцца з 11 ст. У 12—13 ст. ва Усх. Еўропе з'явіліся розныя канструкцыі Ц. На Беларусь яны трапілі выпрацаванымі. У раннесярэдневяковых пахаваннях з канём і на гарадзішчах выяўлены 2-стрыжнёвыя Ц. з псаліямі, 1-стрыжнёвыя з рухомымі кольцамі па краях, 3- і 2-стрыжнёвыя з кольцамі. Апошнія былі універсальнымі і з 10 ст. найб. распаўсюджанымі, а ў эпоху сталага сярэднявечча дамінавалі ў Еўропе. Цэлыя экземпляры 2-стрыжнёвых кольцавых Ц. 15—18 ст. знойдзены ў Горках, Дрысвятах, Крычаве, Мазыры, Мінску, Мсціславе і інш. У старажытнасцях гэтай эпохі выяўлены экземпляры больш ранніх канструкцый (з псаліямі і 1- і 3-стрыжнёвым грызлам).

*Літ.:* 532, 762, 1033.

*Г. М. Сагановіч.*

**ЦЫТАДЭ́ЛЬ** (італьян. cittadella, літар. маленькі горад), найбольш умацаваная цэнтр. частка старaж. горада або крэпасці, разлічаная на аўтаномную абарону ў выпадку падзення вонкавых фартыфікацыйных ліній; апошні апорны пункт абаронцаў пры штурме. Складалася з абарончых збудаванняў розных тыпаў і канструкцый (валы, равы, муры, вежы і інш.), часта будавалася на натуральным або штучным узвышшы. Подступы да Ц. для зручнасці абароны звычайна не забудоўваліся. Гіст. назвы Ц.— акропаль (Старaж. Грэцыя), капітолій (Старaж. Рым). На Беларусі Ц. былі *дзядзінцы,* пазней астрогі. З 13—14 ст. ролю Ц. выконвалі замкі і вежы-данжоны (гл. *Камянецкая вежа, Тураўская вежа*). Ц. маглі знаходзіцца ў цэнтры абароны (гл. *Віцебскі Верхні замак, Віцебскі Ніжні замак, Полацкі Верхні замак, Полацкі Ніжні замак*), у гар. фартыфікацыйных лініях (гл. *Магілёўскі замак, Слуцкі Верхні замак*) і за іх межамі (*Брэсцкі замак,* палацава-замкавы комплекс у Нясвіжы). Да сярэдзіны 19 ст. Ц. мелі абарончае значэнне (гл. *Бабруйскі замак*). У пераносным значэнні Ц.— цвярдыня, аплот, непрыступная крэпасць.

*М. А. Ткачоў.*

**ЦЭ́ГАК-ГАЛУБО́ВІЧ** Гелена (1902, Станіслаў Львоўскай вобл.— 1979), археолаг. Дацэнт (1956), прафесар (1968). Скончыла факультэт філасофіі і права Львоўскага ун-та (1930), у 1931—39 супрацоўнік кафедры археалогіі Віленскага ун-та, пазней — Літоўскага музея мастацтва. У 1945 супрацоўнік Ін-та гісторыі АН Беларусі. У 1946—50 ад'юнкт (асістэнт) кафедры археалогіі Торуньскага ун-та імя М. Каперніка, у 1950—56 — Вроцлаўскага ун-та. У 1930-я г. праводзіла археал. даследаванні (разам з мужам У. *Галубовічам*) на тэр. Глыбоцкага, Мёрскага, Пастаўскага, Навагрудскага, Лідскага і інш. раёнаў (вёскі Вята, Наўры, Паддубнікі, Чарневічы, Чурылава і інш.).



**Г. Цэгак-Галубовіч.**



**Тонкая цэгла-пальчатка** 17 ст. Магілёў.

*Тв.:* Zabytki archeologiczne województwa Wileńskiego i Nowogródzkiego. Wilno, 1936; Słowiańskie groby kurhanowe koło Czerniewicz w pow. Dziśnieńskim // Wiadomości archeologiczne. Warszawa, 1939. T. 16; Славянские поселения правобережной Дисны в Вилейском округе БССР (разам з У. Галубовічам) // Краткие сообщения Ин-та истории материальной культуры АН СССР. М., 1945. Вып. 11.

*Літ.:* 1448. *Л. У. Дучыц.*

**ЦЭ́ГЛА,** штучны буд. матэрыял з гліны або іншай мінеральнай сыравіны ў выглядзе брускоў разнастайнай формы. На Беларусі вядома з сярэдзіны 11 ст. як *плінфа* — шырокая і плоская абпаленая Ц. на ўзор візантыйскай. Спачатку была амаль квадратная, потым набыла форму прамавугольніка таўшч. 3,3—3,5, 4,5—5 см. Для муроўкі паўкалон, слупоў, парталаў і інш. архітэктурных дэталяў выкарыстоўвалі таксама фігурную або лякальную плінфу розных геам. форм (трапецыя, паўкруг і інш.). Некаторыя цагліны мелі знакі (рэльефныя адбіткі на паверхні цаглін у выглядзе трызубца, пяціканцовай зоркі, інш. геам. фігур або літар), клеймы (адбіткі спец. пячаткі), меткі, прадрапаныя вострым прадметам. У 13—18 ст. выкарыстоўвалі буйнапамерную Ц. з адбіткамі пальцаў на паверхні (гл. *Цэгла-пальчатка*), з 15 ст. адбіткі рабілі і спец. прыладай накшталт грабянца. Адначасова ў 14—15 ст. выраблялі Ц. з роўнай паверхняй. На Ц. 14—15 ст. зрэдку сустракаюцца меткі, клеймы і знакі. Для муроўкі архіт. дэталей (кантаў нервюрных скляпенняў і інш.) выраблялі фігурную цэглу спосабамі фармоўкі, абсклюдавання (Ц.-сырэц перад абпалам абразалі нажом) і абчэсвання. Для аздобы неатынкаваных фасадаў цагляных будынкаў у 15—16 ст. выкарыстоўвалі перапаленую Ц.-клінкер цёмна-сіняга, амаль чорнага колеру. Таўшчыня Ц. ў 13—16, 18 ст. была 7—10 см, у сярэдзіне 17 — пач. 18 ст.— 4,5—6 см. У 19 — пач. 20 ст. Ц. набывае амаль сучасныя памеры. Асн. яе колькасць выраблялі прыватныя цагляныя заводы, якія мецілі прадукцыю сваімі клеймамі. У канцы 19 — пач. 20 ст. зноў пачалі вырабляць фігурную фармаваную Ц. У 1920—30-я г. ў Зах. Беларусі прыватныя цагельні выпускалі маламерную жоўтую Ц. з клеймамі на шырокай паверхні. На тэр. БССР у даваенны час выраблялі цэглу чырвонага колеру дзярж. заводы. Заводскія клеймы на бел. мове ставілі на старчаках цаглін. *А. А. Трусаў.*

**ЦЭ́ГЛА-ПАЛЬЧА́ТКА,** буйнапамерная цэгла з падоўжнымі ці дыяганальнымі барознамі па паверхні, якія наносіліся спец. інструментам альбо пальцамі майстра. На Беларусі вядома ў 13—18 ст., трапіла з Валыні. Сустракаецца ў Прыбалтыцы, Польшчы, Германіі. Выраблялася розных памераў: для замкавага будаўніцтва таўшч. 8—10 см, у 2-й пал. 17 ст. пашырана тонкая пальчатка — 4,5—6 см. На Ц.-п. 14—16 ст. трапляюцца знакі, меткі і клеймы (Гродзенскі і Мірскі замкі, касцёл ва Уселюбе).

**ЦЭ́РА** (ад лац. cera воск), прыстасаванне для пісьма ў выглядзе блока з 2 і болей дошчачак (памеры 8×14×0,8—1 см), злучаных паміж сабой скуранымі паскамі. Выкарыстоўваліся з часоў Стараж. Грэцыі і Рыма. На Русі вядомы з 11 ст. па раскопках Ноўгарада, дзе знойдзена 12 экземпляраў. Выраблялі з елкі ці хвоі. На ўнутраным баку рабілі паглыбленне на 2—5 мм (т. зв. «каўчэжэц»), якое запаўнялі воскам. Па воску пісалі спец. прыладай — *пісалам.* Звонку дошчачкі былі гладкія або дэкарыраваныя мудрагелістай рэззю. На некаторых выразана азбука. На Беларусі частка Ц. знойдзена пры раскопках Бярэсця ў культурным пласце 13 ст. Гэта дошчачка шыр. 8,2 см (захавалася на даўж. 3,3 см), з паглыбленнем пасярэдзіне і дзірачкамі пад скураныя паскі. Экспануецца ў павільёне археал. комплексу «Бярэсце» (гл. ў арт. *Брэст*).

*Літ.:* 559, 702, 761. *Л. У. Калядзінскі.*

**ЦЭХІ́Н** (італьян. zecchino ад zecca манетны двор), залатая манета Венецыі. Упершыню выпушчана ў 1284, пазней вядома як *дукат.*



**Цэхін.** Венецыя, 1354—55.

**ЦЮ́РЫНА** Іда Міхайлаўна (н. 16.10. 1937, Свярдлоўск), археолаг. Канд. гіст. навук (1967). Скончыла Ленінградскі ун-т (1959). У 1959—64 працавала ў Арггрупе па стварэнні Беларускага дзяржаўнага гісторыка-краязнаўчага музея. Вывучала неалітычныя помнікі ў Брэсцкай, Гомельскай, Гродзенскай і Мінскай абласцях, Верхняга Падняпроўя, удзельнічала ў археал. экспедыцыях. З 1969 супрацоўнік Ін-та навук. інфармацыі па грамадскіх навуках Расійскай АН.

*Тв.:* Неолитическое поселение в урочище Стрелица (раскопки 1963—1964 гг. (разам з І. І. Арцёменкам) // Краткие сообщения Ин-та археологии АН СССР. М., 1966. Вып. 106; Неолитические памятники Посожья // Там жа. 1967. Вып. 111; Неолит Верхнего Поднепровья // Сов. археология. 1970. № 3; Некоторые данные о неолитических племенах Верхнего Поднепровья // Этнокультурные общности лесной и лесостепной зоны Европейской части СССР в эпоху неолита. Л., 1973.



І. М. **Цюрына.**

**ЦЯГА́КА** Лідзія Іванаўна (н. 21.2. 1937, г. п. Кампаніеўка Кіравоградскай вобл.), беларускі антраполаг. Д-р медыцынскіх навук (1990). Скончыла Мінскі медыцынскі ін-т (1960). З 1969 у Ін-це мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі (старшы вядучы навук. супрацоўнік, з 1990 заг. аддзела антрапалогіі і экалогіі). Даследуе праблемы часавай і прасторавай зменлівасці морфафункцыянальных прыкмет людзей, варыябельнасць дэрматагліфічных і аданталагічных прыкмет этнагенетычных працэсаў на тэр. Беларусі. Аўтар «Нарысаў па антрапалогіі Беларусі» (1976, разам з І. І. Салівон і А. І. Мікулічам), падручніка «Асновы сучаснай антрапалогіі» (1989, разам з І. І. Салівон).

*Тв.:* Антропология Белорусского Полесья: (Демография, этнич. история и генетика). Мн., 1978 (разам з А. І. Мікулічам, І. І. Салівон); Биологическое и социальное в формировании антропологических особенностей (по данным исследования населения Поозерья). Мн., 1981 (з імі ж); Дерматоглифика населения Белоруссии. Популяционные аспекты изменчивости. Мн., 1989.



Л. І. **Цягака.**

**ЦЯЛЕ́ГІН** Дзмітрый Якаўлевіч (н. 26.10.1919, в. Плысавое Лазоўскага р-на Харкаўскай вобл.), украінскі археолаг. Д-р гіст. навук (1967), прафесар (1976). Скончыў Чарнавіцкі ун-т (1949). З 1952 працуе ў Ін-це археалогіі АН Украіны. Даследуе старажытнасці каменнага, меднага і бронзавага вякоў Украіны і сумежных тэрыторый, у т. л. і паўд.-ўсх. Беларусі. Прымае ўдзел у падрыхтоўцы маладых спецыялістаў-археолагаў Беларусі. Аўтар больш за 300 навук. прац, у т. л. па мезаліце Украіны, *днепра-данецкай культуры,* па энеаліце Падняпроўя. Дзярж. прэмія УССР 1977.

*Тв.:* Дніпро-донецька культура: До історії населення епохи неоліту — раннього металу півдня Східної Европи. Київ. 1968; Середньо-стогівська культура епохи міді. Київ, 1973; Мезолітичні пам'ятки України (IX—VI тисячоліття до н. е.). Київ, 1982: Памятники эпохи мезолита на территории Украинской ССР. Киев, 1985. *М. М. Чарняўскі.*



**Цёслы** з в. Доўск Рагачоўскага р-на (злева) і в. Зацэнне Лагойскага р-на.

**ЦЯСЛА́,** рубячая прылада для апрацоўкі драўніны з прымацаваным на канцы дзяржання рабочым целам, лязо якога размешчана перпендыкулярна ручцы. Формай Ц. нагадвае *матыку.* Выкарыстоўвалася для выдзёўбвання чаўноў, карыт, начовак, ступ і інш. ёмістасцей з дрэва, апрацоўкі паверхні бярвення. Вядомы рагавыя і крамянёвыя Ц. эпохі мезаліту. Звычайна Ц. плоска-выпуклае ў папярочніку з сіметрычным лязом (у сякер наадварот). Выяўлены крамянёвыя Ц. з перахопамі, грубаапрацаваным абухом, прышліфаваным выпуклым лязом, у выглядзе цяслападобных (з адным плоскім бокам) сякер і інш. Шмат падобных прылад належаць да *макралітычнай культуры.* Ц. шырока выкарыстоўваліся ў неаліце і бронзавым веку, калі на іх выраб ішлі не толькі камяні розных парод, але і метал. Да Ц. належыць таксама частка клінападобных прылад, якія традыцыйна лічацца сякерамі. У жал. веку Ц. ўяўляла сабой выкаваную з жалеза прыладу з паў-

авальным лязом і правушынай, у якой перпендыкулярна лязу замацоўвалася дзяржанне. *У. Ф. Ісаенка.*

**ЦЯСТЫ**, гарадзішча 1-й пал. 1-га тысячагоддзя н. э. каля в. Цясты Верхнядзвінскага р-на. За 500 м на У ад вёскі, на левым беразе р. Дрыса, за 1 км вышэй упадзення ў яе р. Свольна. Мясц. назва Марыліна гара. Пабудавана на ўзгорку выш. 6—8 м, з Пн абмежавана карэнным берагам Дрысы (выш. 20—22 м), з З — безназоўным ручаём, з У і З умацавана равамі шыр. 9—13 м, глыб. 2 м. Пляцоўка авальная, памер 35×60 м. Вядома з 1873. Абследаваў у 1972 У. Ф. Ісаенка, даследаваў 200 м² у 1981—82 В. І. Шадыра. Культурны пласт 0,3—1,5 м, павялічваецца бліжэй да краю пляцоўкі.

Выяўлены рэшткі жылых і гасп. пабудоў, якія размяшчаліся па краі пляцоўкі, шматлікія вырабы з каменю, гліны, жалеза і бронзы, фрагменты танкасценных гаршкоў слоікападобнай і вядропадобнай форм без арнаменту (аналагічныя сустракаюцца ў латвійскім Падзвінні). Да рэдкіх знаходак адносяцца долатападобная прылада з жалеза, бронзавая акулярападобная падвеска, жал. шпількі, бранзалеты і загатоўкі.

*Літ.*: 1312, 1315. *В. І. Шадыра.*

**ЦЯХЦІН**, група археал. помнікаў каля в. Цяхцін Бялыніцкага р-на.

Стаянка-1 эпохі неаліту. За 200 м на Пн ад вёскі, 500 м на Пд ад трыганаметрычнага пункта, на 1-й надпоплаўнай тэрасе правага берага р. Друць і левага берага безназоўнага ручая. Памер 100× ×40 м. Адкрыў у 1980, даследаваў 4 м² у 1982 і 1985 В. Ф. Капыцін. Культурны пласт у верхняй частцы знішчаны ворывам.

Выяўлены крамянёвыя прылады працы — ромбападобныя наканечнікі стрэл, вастрыі, канцавыя скрабкі і адшчэпы з рэтушшу, прадукты расшчаплення крэменю — аднапляцовачныя нуклеусы, пласціны, адшчэпы.

Стаянка-2 эпохі неаліту. За 500 м на ПнУ ад вёскі, 1 км на Пд ад стаянкі-1, на 1-й надпоплаўнай тэрасе правага берага р. Друць. Адкрыў у 1980 і даследаваў 4 м² у 1982 і 1985 В. Ф. Капыцін. Памер 160 × 50 м.

Знойдзены тронкавыя і амаль трохвугольныя наканечнікі стрэл; нажы серпападобнай формы, канцавыя і закругленыя скрабкі, разцы, пласціны-ўкладышы, адшчэпы з рэтушшу, фрагменты керамікі, арнаментаванай ямачкамі і адбіткамі дробназубчастага грэбеня; у гліне дамешак буйназярністага кварцавага пяску.

Курганны могільнік эпохі Кіеўскай Русі. За 300 м на ПнУ ад стаянкі-2, на высокім правым беразе р. Друць. 5 насыпаў выш. 1—1,6 м, дыям. 8—16 м. Раскопкі не праводзіліся.

Селішча эпохі Кіеўскай Русі. На зах. ускраіне вясковага могільніка. Памер 150 × 70 м. Культурны пласт 0,2—0,4 м. Адкрыў у 1980 Капыцін. Знойдзены фрагмент ганчарнай керамікі і абломак біканічнага прасліца.

*Літ.*: 564, 578. *В. Ф. Капыцін.*



**ЧАБАТО́ВІЧЫ**, курганны могільнік радзімічаў у цэнтры в. Чабатовічы Буда-Кашалёўскага р-на. 3 насыпы выш. 1,2—1,6 м, дыям. 12—14 м (раней было 37 насыпаў). Вядомы з 1873, даследаваў 14 курганоў у 1893 У. Б. Антановіч, абследаваў у 1976 Я. Г. Звяруга. Пахавальны абрад — трупапалажэнне галавой на З.

Пахавальны інвентар: шкляныя, пазалочаныя і сердалікавыя пацеркі, бронзавыя грыўня з падвескамі, бранзалет, сяміпрамянёвыя скроневыя кольцы, нажы; каля ног нябожчыкаў былі гаршкі. Датуецца 10—12 ст.

*Літ.*: 67. *Я. Г. Звяруга.*

**ЧАВУСКІЯ АРХЕАЛАГІ́ЧНЫЯ ПО́МНІКІ**, селішча і курганны могільнік каля г. Чавусы.

Селішча. За 2,1 км на ПдУ ад горада, на левым беразе р. Бася. Пл. каля 2,5 га. Адкрыў у 1976 і да 1981 даследаваў больш за 1000 м² Я. Р. Рыер. Культурны пласт 0,2—1 м, у ямах да 2 м. Выяўлены рэшткі пабудоў зрубнай і слупавой канструкцыі, частка гасп. двара са слядамі вытворчай дзейнасці, у т. л. жалезаробчай і бронзаліцейнай. Каля памяшканняў выяўлены рэшткі паглыбленай у мацярык печы-каменкі (хлебная печ) і агнішчаў.



Скроневыя кольцы (1—3), наверша ад шыйнай грыўні (4), падвескі (5, 14—20), пацеркі (6—13), спражкі (21—24), гузік (25), фрагменты бранзалетаў (26—27), пярсцёнкі (28—36) з **Чавускіх археалагічных помнікаў.**

Сабрана вял. колькасць фрагментаў ганчарнай керамікі, каменныя і жал. прылады працы і прадметы побыту

(грузілы, бруські-асялкі, прасліцы, нажы, нажніцы, рыбалоўныя кручкі, скобля для апрацоўкі бярвён, фрагменты пілак, кавалак наральніка ці сашніка і інш.), бронзавыя і шкляныя ўпрыгожанні (скроневыя кольцы, шыйныя грыўні, бранзалеты, пярсцёнкі, пацеркі), а таксама бранябойны наканечнік стралы; частка жал. псаліі, касцяны грэбень і інш.

Селішча існавала ў 10—16 ст., росквіт яго прыпадае на 11—13 ст., калі тут жыла сям'я дружынніка (дробнага ленніка або прадстаўніка землеўладальніцкай адміністрацыі). Мяркуючы па памерах і часе існавання суседняга курганнага могільніка, у 11—12 ст. селішча мела 20—35 жыхароў.

Курганны могільнік. За 100 м на Пн ад селішча. Адкрыў у 1930 І. А. Сербаў, тады могільнік налічваў 130 насыпаў. У 1972 абследаваў Рыер, могільнік меў 89 насыпаў выш. 1—2,7 м, дыям. 5—12 м. За 1976—81 Рыер даследаваў 20 курганоў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў насыпе на выш. 10—50 см (17 курганоў), на ўзроўні мацерыка (1) і ў яме (2 курганы). Нябожчыкаў хавалі ў выцягнутым становішчы, галавой на З (8 пахаванняў) і У (2). У аснове ўсіх курганоў магутныя попельныя пласты ад пахавальных кастроў. У 6 курганах цэнтры пляцовак абкружаны выкапанымі ў мацерыку кальцавымі канаўкамі. Узрост нябожчыкаў 30—35 гадоў, сярод іх 2 дзяўчынкі 8—9 гадоў (вызначэнне І. І. Салівон). Асн. частка курганоў датуецца 11 ст., курган з пахаваннем у яме — 12 ст. Сярод рэчаў — радзіміцкія скроневыя кольцы і падвескі, многа шкляных пацерак, у т. л. візантыйскія з пазалотай, ціскі ювеліра.

*Літ.*: 971, 973, 1079. *Я. Р. Рыер.*

**ЧА́КВІН** Ігар Усеваладавіч (н. 20.8.1954, Мінск), беларускі этнограф. Канд. гіст. навук (1981). Скончыў БДУ (1977). З 1981 старшы навук. супрацоўнік Ін-та мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі. Даследуе праблемы этнагенезу і этнічнай гісторыі беларусаў эпохі феадалізму, палеаантрапалогіі і палеадэмаграфіі Беларусі 10—16 ст. Па краніяметрычных матэрыялах са стараж. курганоў і могільнікаў крывічоў, радзімічаў, дрыгавічоў, яцвягаў зрабіў да 20 антрапалагічных рэканструкцый (гл. ў арт. *Рэканструкцыя антрапалагічная)* твару і фізічнага тыпу жыхароў бел. зямель 10—18 ст. Адзін з аўтараў кніг «Праблемы сучаснай антрапалогіі» (1983), «Этнаграфія беларусаў: гістарыяграфія, этнагенез, этнічная гісторыя» (1985) і інш.

**ЧАЛАВЕ́К,** вышэйшая ступень эвалюцыі жывых арганізмаў на Зямлі, прадстаўнік біялагічнага віду, сацыяльная істота і суб'ект гісторыі. Вывучэннем Ч. займаюцца біялагічныя і грамадскія навукі: *антрапалогія*, анатомія, фізіялогія, псіхалогія, шэраг іншых медыцынскіх навук, а таксама гісторыя, філасофія, сацыялогія, этнаграфія, педагогіка і інш. Усе выкапнёвыя формы чалавека — *архантрапы, палеантрапы, неаантрапы* — і чалавек сучаснага віду — Homo sapiens — адносяцца да атрада прыматаў, складаючы асобнае сямейства гамінідаў. Адпаведна тэорыі Ч. Дарвіна і Ф. Энгельса аб паходжанні Ч. ад вышэйшых чалавекападобных малпаў, пад уплывам працы ўзніклі асаблівасці, якія адрозніваюць яго ад бліжэйшых продкаў — антрапоідаў: прамахаджэнне, здольная да маніпуляцыі рука, высокаразвіты мозг, членараздзельная мова. З жывёльнага свету Ч. вылучаюць свядомасць, здольнасць рабіць прылады працы, выкарыстоўваючы іх для ўздзеяння на навакольнае асяроддзе. Першыя прадстаўнікі сямейства гамінідаў цалкам залежалі ад прыроды, біялагічныя заканамернасці ў іх адаптацыі адыгрывалі асн. ролю, кліматычныя змены адбіваліся на структурных асаблівасцях, узмацнялі працэсы марфалагічнай зменлівасці, садзейнічалі расаўтварэнню (гл. *Расы).* З завяршэннем *антрапагенезу* Ч., захоўваючы сваю біялагічную аснову, ператварыўся ў істоту сацыяльную. У яго існаванне і дзейнасць уключаюцца сацыяльныя фактары, якія паступова займаюць вядучую ролю ў развіцці грамадства. Біялагічныя асаблівасці Ч. запісаны ў яго генетычнай праграме пры дапамозе малекулы ДНК, якая забяспечвае перадачу спадчынных адзнак. Сацыяльная спадчыннасць (матэрыяльная культура і духоўныя каштоўнасці) фарміруюцца і развіваюцца ў выніку вытворчай дзейнасці людзей, што падпарадкоўваецца сацыяльным заканамернасцям.

*Літ.:* 63, 1167, 1380, 1382. *Л. І. Цягака.*

**ЧАЛО́ЎСКІ** Сымон Юльянавіч [1853(?), Магілёўская вобл.— пасля 1915], беларускі археолаг, краязнавец. Скончыў Маскоўскі ун-т (1888). Працаваў у Клімавічах (міравым суддзёй па сялянскіх справах, чл. павятовага з'езда дваранства, кіраваў прытулкам сірот), быў чыноўнікам па асобых даручэннях Магілёўскага губернатара А. С. Дэмбавецкага. У 1890-я г. вёў археал. даследаванні ў Падняпроўі. Разам з М. В. Фурсавым абследаваў археал. помнікі ў Быхаўскім, Клімавіцкім, Мсціслаўскім, Рагачоўскім, Чэрыкаўскім паветах і склаў карту археал. помнікаў Магілёўскай губ. Сярод адкрытых помнікаў гарадзішча і 20 курганоў у Хоцімску. У Мсціславе знайшоў стараж. гравюру абразоў Тупічэўскай Маці Боскай (1711), гравіраваную дошку з выявай сямейства святых і інш. матэрыялы. Удзельнік 9-га археал. з'езда ў Вільні (1893).

*Тв.*: Дневник курганных раскопок, произведённых по поручению г. начальника Могилёвской губернии А. С. Дембовецкого, в течение лета 1892 г. в уездах Рогачёвском, Быховском, Климовичском, Чериковском и Мстиславльском. Могилёв, 1892 (разам з М. В. Фурсавым); Дневник курганных раскопок, произведённых по поручению г. начальника Могилёвской губернии А. С. Дембовецкого в течение июня 1893 года в 3-х уездах Могилёвской губернии. Могилёв, 1893.

*Г. А. Каханоўскі.*

**ЧАМЯРНЯ́,** археал. помнікі каля пас. Чамярня Веткаўскага р-на.

Гарадзішча. За 400 м на Пн ад пасёлка, на мысе высокага правага берага р. Беседзь, ва ўрочышчы Каменная гара. Пляцоўка паўавальнай формы, памер 21 × 22 м, вышыня над поплавам каля 21 м. З Пд, З і Пн умацавана падкowападобным валам, з У круты схіл да поплава р. Беседзь. Вядома з 1873, абследавалі ў пач. 20 ст. Е. Р. Раманаў, у 1975 С. М. Васільева.

Курганны могільнік. За 200—300 м на Пн ад пасёлка, на карэннай тэрасе правага берага р. Беседзь, справа ад дарогі Свяцілавічы — Вялікія Нямкі і ва ўрочышчы Серыкава (Чортава, Каменная) гара. Збераглося 19 пашкоджаных насыпаў. Вядомы з 1873, абследавалі ў канцы 19 ст. Раманаў, у 1975 Васільева, у 1980 А. А. Макушнікаў. У ранніх крыніцах значыцца як могільнік каля в. Вялікія Нямкі. Па дадзеных Раманава, ва ўзараных курганах знойдзены косці чалавека, пацеркі, арабскія манеты 10 ст. Раскопкі аднаго з курганоў у 1952 правёў завуч Свяцілавіцкага дзіцячага дома В. Д. Сівакоў. Датуецца канцом 10 — пач. 12 ст.

Бескурганны могільнік позняга этапа *зарубінецкай культуры.* За 400 м на ПнУ ад пасёлка, на левым беразе р. Беседзь, на ўзвышшы ва ўрочышчы Прыстань. Выявіў у 1981 Макушнікаў, абследаваў у 1987 А. І. Драбушэўскі. У агаленнях выяўлены рэшткі ям з пахавальным абрадам трупаспалення за межамі кургана, аплаўленая бронзавая спіраль, фрагменты грубай ляпной керамікі. Датуецца 1-й чвэрцю 1-га тысячагоддзя н. э.

Селішча позняга этапа зарубінецкай культуры. На месцы бескурганнага могільніка. Абследавалі ў 1970-я г. А. Г. Калечыц, у 1981 Макушнікаў, у 1987 Драбушэўскі. Культурны пласт у агаленнях 0,2—0,3 м. Знойдзены фрагменты грубай ляпной керамікі. Датуецца 1-й чвэрцю 1-га тысячагоддзя н. э.

*Літ.*: 981, 1046.

*А. І. Драбушэўскі, А. А. Макушнікаў.*

**ЧАМЯРЫ́,** група рытуальных курганоў каля в. Чамяры Міёрскага р-на. За 1 км на Пн ад вёскі, за 500 м ад левага берага Зах. Дзвіны.

ва ўрочышчы Чэмерскі бор, каля сучасных могілак. 43 круглыя (дыям. 4—9 м) або падоўжныя (памеры 5,2 × 7; 6 × 6,7 м) насыпы выш. 0,7—3 м. Мясц. назва Французскія магілы. Выявілі і даследавалі ў сярэдзіне 1930-х г. Г. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіч (4), у 1977, 1981, 1984—85 Л. У. Дучыц (25 насыпаў). Ва ўсіх курганах у аснове ці ў розных месцах насыпу знойдзена вуголле, у некаторых каля асновы былі каменныя вымасткі і агароджы, у насыпе — па некалькі вугольных праслоек, што сведчыць пра шматразовую падсыпку. Сляды пахаванняў не выяўлены. У адным кургане на мацерыку знойдзены кавалак галёначнай косці, у другім — драўляная парахня. У 16 курганах, пераважна на перадмацерыковым слоі, выяўлены дробныя фрагменты ляпных і ганчарных гаршкоў з зялёнай і карычневай палівай. Узнікненне курганоў звязана з адраджэннем аднаго з язычніцкіх культаў. Датуецца 14—18 ст. Гл. таксама арт. *Чурылава* (Міёрскі р-н).

*Літ.*: 342, 346, 1419. *Л. У. Дучыц.*

**ЧАПЛІН,** археал. комплекс каля в. Чаплін Лоеўскага р-на.

Гарадзішча. На паўд. ускраіне вёскі, на правым беразе Дняпра. Пляцоўка памерам 85 × 73 м, выш. над поплавам ракі каля 16 м. Абследаваў у 1935 К. М. Палікарповіч, даследавалі ў 1951—53 П. М. Траццякоў, у 1956—57 Л. Д. Побаль. Даследавана 1744 м². Выяўлена 21 паглыбленае ў зямлю жытло пл. 10—24 м². У плане яны квадратныя або прамавугольныя, ніжняя частка знаходзіцца на ўзроўні мацерыка. Адносяцца да раннезарубінецкай культуры.

Знойдзены авальныя і круглыя гасп. ямы, прылады працы (сярпы, нажы, сякеры-кельты), культавыя рэчы (посахападобныя бронзавыя і жал. шпількі, бранзалеты, кольцы), узбраенне (наканечнікі коп'яў, латэнская шпора). З бронзаліцейнай вытворчасцю звязаны ліцейныя формачкі, тыглі, вырабы з бронзы. Знойдзены гліняныя праслiцы розных тыпаў і форм, грузікі, пацеркі, накрыўкі і шарыкі, вырабленыя з косці і рога вастрыі, амулеты, а таксама тачыльныя камяні, таўкачы, зерняцёркі і інш. Выяўлены розныя тыпы скіфскіх рэчаў, кельцкія фібулы, старажытнагрэчаскія шкляныя пацеркі, абломкі элiністычнага посуду, фрагмент збанка чарняхоўскай культуры, шмат астэалагічных матэрыялаў свойскіх і дзікіх жывёл, рыб, птушак.

Датуецца 7—6 ст. да н. э.— 13 ст. н. э.

Селішча. На Пн ад гарадзішча, прылягае да бескурганнага могільніка. Цягнецца на 90 м уздоўж берага Дняпра. Даследавалі ў 1955 В. М. Мельнікоўская (145 м²), у 1956—57 Побаль (каля 600 м²). Культурны пласт да 0,6 м. Выяўлены рэшткі заглыбленых у зямлю і наземных жытлаў слупавой канструкцыі розных перыядаў, вял. гаспадарчых ям.

Знойдзены вырабы з жалеза (нажы, наканечнікі кап'я, стралы, кручкі, сярэднелатэнскія фібулы), бронзы (кольца з выступамі, завушніцы, посахападобная шпілька), керамічны посуд, праслiцы, патэльні, каменныя брускі, зерняцёркі, касцяныя праколкі, шкляныя грэчаскія пацеркі, косці свойскіх і дзікіх жывёл.

Адносіцца да мілаградскай і зарубінецкай культур 1-га тысячагоддзя н. э., перыяду Старaж. Русі.

Бескурганны могільнік. На ПнЗ ад селішча. Даўж. 17 м, шыр. 80 м. Даследавалі ў 1951—53 Ю. У. Кухарэнка (1628 м², 44 пахаванні), у 1956—57 Побаль (7220 м², 238 пахаванняў). Пахавальны абрад — трупаспаленне ў круглых і прадаўгаватых ямах (на глыб. 0,3—0,5 м), арыентаваных з ПнЗ на ПдУ. Ёсць *кенатафы*, парныя пахаванні, дарослых і дзяцей.

Знойдзены 275 пасудзін, 14 жал. наканечнікаў коп'яў, некалькі дзесяткаў падкованападобных фібул, сярэднелатэнскія, познелатэнскія бронзавыя і імпартныя жал. фібулы з Цэнтр. Еўропы, розныя тыпы жал. нажоў, сякеры-кельты, гліняныя праслiцы, абломак каменнай зерняцёркі, шылы, бранзалеты, жал. посахападобныя шпількі, пярсцёнкі, скроневыя кольцы, бронзавыя прынізкі, 1164 грэчаскія шкляныя пацеркі дагецкага перыяду (да 55 г. да н. э.), косці і зубы свойскіх і дзікіх жывёл. Знаходкі сведчаць, што насельніцтва займалася земляробствам, жывёлагадоўляй, рознымі хатнімі промысламі, падтрымлівала гандл. сувязі з кельтамі, скіфамі, гарадамі Прычарнамор'я.

Могільнік адносіцца да *мілаградскай культуры* і ранняга этапу *зарубінецкай культуры.*

Курганы. На паўн. ускраіне вёскі. Захавалася некалькі насыпаў эпохі Старaж. Русі. Даследавалі ў 1951—53 Кухарэнка, у 1956—57 Побаль. Курганы насыпаны на селішчы жал. веку. Знойдзена кераміка зарубінецкай культуры.



Гаршкі і міска з археалагічнага комплексу **Чаплін.**



Праслiца з гарадзішча **Чаплін** Лоеўскага р-на. 2 ст. да н. э.



Бронзавы бранзалет з гарадзішча **Чаплін.**

*Літ.*: 634, 772, 902, 903, 904.

*Л. Д. Побаль.*

**ЧА́ПСКІ** (Гутэн-Чапскі) Эмерык [5(17).11.1828, в. Станькава Стаўбцоўскага пав. (цяпер Дзяржынскі р-н) — 23.12.1896 (4.1.1897)], рускі дзярж. дзеяч, калекцыянер, нумізмат. Сапраўдны член Рус. археал. т-ва (1851), Маскоўскага нумізматычнага т-ва (1890). Скончыў Віленскую гімназію, Маскоўскі ун-т. Удзельнік Крымскай вайны 1853—56. З 1863 віцэ-губернатар Наўгародскай, з 1865 Пецярбургскай губ., з 1875 дырэктар Лясного дэпартамента Мін-ва дзярж. маёмасцей. У 1879—94 жыў у радавым маёнтку Станькава, дзе заснаваў музей, сабраў калекцыі нумізматычную, археал., іконаграфічную, мастацкіх карцін, малюнкаў, гравюр, зброі, дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Буйны калекцыянер польскіх, літ. і рус. манет, аўтар каталогаў уласных збораў. Калекцыя рoсікі складала каля 5 тыс. экземпляраў. Манеты з калекцыі Ч. пазначаны мініяцюрнай кантрамаркай (гл. *Контрамаркіраванне манет*). У яго бібліятэцы (каля 20 тыс. тамоў) збе-

рагліся рэдкія выданні, калекцыі рукапісаў. Быў звязаны з археолагамі Я. і К. Тышкевічамі, Я. Завішай і інш. Аўтар даследаванняў па нумізматыцы «Каталог калекцый польскіх медалёў і манет» (т. 1—5, 1871—1916; 2 выд., 1957), «Удзельныя, велікакняжацкія і царскія грошы Старажытнай Русі» (1875). Апошняя адзначана вял. сярэбраным медалём Рус. археал. т-ва «За вучоныя працы па археалогіі». Яму прысвяціў брашуру-некралог А. Ельскі (1896). Большасць яго збораў, асабліва нумізматычных, была перададзена ў Кракаў у музей, збудаваны за яго кошт. У гонар 25-годдзя навук. працы Ч. па ініцыятыве калег-нумізматаў у 1896 выбіты медаль (золата, серабро, бронза).

*Літ.*: 744, 1447, 1546а, 1693а.

*Г. А. Каханоўскі, І. І. Сінчук.*

**ЧАПЯЛЁВА,** паселішча эпохі мезаліту (7—5-е тысячагоддзі да н. э.) каля в. Чапялёва Слонімскага р-на. За 400 м на ПнЗ ад вёскі, на пясчаным узвышшы. Выш. над 1-й надпоплаўнай тэрасай правага берага р. Шчара 1,5—2 м. Выявіў у 1965 В. Р. Супрун, даследавала ў 1987—90 Н. В. Шаблюк. Культурны пласт да 0,25 м.

Знойдзены наканечнік стралы свідэрскага тыпу, яніславіцкія вастрыі, мікраразцы, трапецыі, вуглавыя і бакавыя разцы, канцавыя скрабкі з пласцінак, праколкі, скоблі, рубячыя прылады, укладышы, сячэнні пласцінак, фігурны крэмень, больш за 80 нуклеусаў, каля 5000 пласцінак і іх абломкаў, больш за 6000 адшчэпаў.

*Літ.*: 267, 1139. *Н. В. Шаблюк.*

**ЧАРКАСО́ВА,** комплекс археал. помнікаў каля в. Чаркасова Аршанскага р-на.

Г а р а д з і ш ч а. На паўн.-усх. ускраіне вёскі, на левым беразе р. Пачаніца, ва ўрочышчы Замчышча (Гарадок). Пляцоўка роўная, памеры 55 × 45 м, мае крутыя схілы выш. каля 10,5 м. Па перыметры ўмацавана падковападобным валам выш. 1,5—4,5 м; з боку поля ўздоўж гарадзішча прасочваецца другі вал выш. каля 2 м, шыр. 6—7 м і слаба выражаны роў. Вядома з 1873. Даследавалі ў 1928 С. А. Дубінскі (ускрыта 65 м²), у 1989 В. М. Ляўко (ускрыта 60 м²), абследаваў у 1971 Л. Д. Побаль. Культурны пласт 1—3,2 м.

У ніжнім і сярэднім гарызонтах, насычаных вуголлем, знойдзена ляпная штрыхаваная, з расчосамі і гладкая кераміка, серпападобны нож, косая гарбуша, шпоры, наканечнік кап'я, касцяныя праколкі, амулеты, вырабы з бронзы. Знаходкі маюць рысы пянькоўскай, тушамлінскай і банцараўскай культур. Выяўлены рэшткі ўнутрывальных драўляных канструкцый 6—8 ст. н. э. У верхнім гарызонце знойдзены матэрыялы пераважна эпохі Кіеўскай Русі: кераміка, бронзавыя і фрагменты шкляных бранзалетаў, пярсцёнак, жал. шпількі з кольцам. Сярод найбольш цікавых знаходак — амфарка кіеўскага тыпу і свінцовая пячатка. Кальцавы вал 3-й чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. ў эпоху Кіеўскай Русі быў знівеліраваны, і пляцоўка гарадзішча расшырылася.

С е л і ш ч а. На паўд.-ўсх. ускраіне вёскі, за 100—150 м на У ад гарадзішча. Выявіў у 1928 Дубінскі, абследавала ў 1989 Ляўко. Культурны пласт 0,5—0,8 м. Знойдзены фрагменты стараж.-рус. ляпной керамікі. Раскопкі не праводзіліся.

К у р г а н н ы м о г і л ь н і к крывічоў. За 20 км на ПнУ ад вёскі, у лесе. 80 насыпаў выш. 0,5—5 м, дыям. 5—20 м. Даследавалі ў 1922 А. Л. Аніхоўскі, у 1928 А. М. Ляўданскі, абследавалі ў 1981 М. І. Лашанкоў, у 1989 Ляўко. Раскапаны 22 насыпы. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце.

Знойдзены бронзавыя скроневыя кольцы крывіцкага тыпу, паясныя бронзавыя кольцы, лірападобныя пражкі, літыя і пласцінiстыя бронзавыя пярсцёнкі, бляшкападобныя падвескі, званочкі з крыжападобнымі прорезямі, 13 пазалочаных шкляных пацерак, сердалікавая біпірамідальная пацерка, ганчарныя гаршкі з клеймамі на дне.



Амфара кіеўскага тыпу з гарадзішча **Чаркасова**.



Рэчы з гарадзішча **Чаркасова**.

Могільнік датуецца 11—12 ст.

*Літ.*: 333, 719. *В. М. Ляўко.*

**ЧАРНЕ́ВІЧЫ,** курганныя могільнікі крывічоў каля в. Чарневічы Глыбоцкага р-на. У 1938—39 даследавалі Г. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіч (79 насыпаў), у 1981 абследавала Л. У. Дучыц.

К у р г а н н ы м о г і л ь н і к - 1. За 1,5 км на З ад вёскі, у лесе. 30 насыпаў на левым і 66 на правым берагах р. Авута выш. 1—3 м, дыям. 5—10 м. Вакол курганоў добра прасочваюцца равочкі і перамычкі.

К у р г а н н ы м о г і л ь н і к - 2. За 400 м ад вёскі, злева ад дарогі на вёскі Шыцікі і Паддубнікі. Каля 40 насыпаў выш. 1—3 м, дыям. 5—10 м. Пахавальныя абрады — трупаспаленне і трупапалажэнне.



Каралі з шкляных пацерак 11 ст. з курганнага могільніка **Чарневічы-2.**

Знойдзены нажы, крэсівы, сякеры, сярпы, ключ, жал. і бронзавыя спражкі, падковападобныя фібулы са спіралепадобнымі канцамі, вітыя бранзалеты і шыйныя грыўні, драцяныя і пласцінiстыя пярсцёнкі, шкляныя пацеркі, косці жывёл, ляпныя і ганчарныя гаршкі.

Могільнікі датуюцца 9—11 ст.

*Літ.*: 1418,1434. *Л. У. Дучыц.*

**ЧАРНО́ЦКІ** Адам, гл. *Даленга-Ходакоўскі* З. Я.

**ЧАРНЯ́ЎСКІ** Ігар Мяфодзьевіч (н. 12.3.1955, г. Чачэрск), беларускі археолаг архітэктуры. Скончыў БДУ (1978). З 1979 у Спец. навукова-рэстаўрацыйных вытворчых майстэрнях Міністэрства культуры Беларусі. З рэарганізацыяй установы ў Бел. рэстаўрацыйна-праектны ін-т — начальнік аддзела архіт.-археал. даследаванняў, начальнік сектара археалогіі. З мая 1991 нам. нач. Гал. ўпраўлення па рэстаўрацыі і кансервацыі помнікаў гісторыі і культуры пры СМ Рэспублікі Беларусь. Вёў раскопкі мураваных пабудоў 12—18 ст. грамадзянскага характару ў Гальшанскім,

Любчанскім, Нясвіжскім, Крэўскім замках, у Магілёве, Віцебску, Пінску, Гайцюнішках, Ружанах, вывучаў надворныя пабудовы Лідскага і Мірскага замкаў. У Княжацкай вежы Крэўскага замка сабрана больш за 5 тыс. фрагментаў фрэсак 15 ст. У 1980 выявіў і даследаваў рэшткі гродзенскай Прачысценскай царквы (12 ст.; пры ўдзеле археал. групы Гродзенскага ун-та пад кіраўніцтвам М. А. Ткачова). З мая 1990 старшыня пастаяннай камісіі па культуры, ахове і адраджэнні гісторыка-культурнай спадчыны гарсавета.

*Тв.*: Пречистенская церковь XII в. в Гродно // Древнерусское государство и славяне: Материалы симпозиума, посв. 1500-летию Киева. Мн., 1983; Замак у Гальшанах // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1983. № 3; Архітэктурна-археалагічныя даследаванні гістарычнага цэнтра Магілёва (разам з В. Р. Кукуняй, А. А. Трусавым) // Весці АН Беларусі. Сер. грамад. навук. 1983. № 5; Роль археологических исследований при разработке проекта регенерации г. Несвижа (разам з Л. Л. Чарняўскай) // Охрана и реставрация комплексных памятников: Тез. докл. межресп. науч. конф. Рига, 1987; Новый памятник гродненской архитектурной школы XII в. // Древнерусское искусство: Худож. культура X — первой половины XIII в. М., 1988; Грамадзянскае мураванае дойлідства Беларусі ў XII—XV стст. // Помнікі мастацкай культуры Беларусі: Новыя валед.: Зб. арт. Мн., 1989. *Л. Л. Чарняўская.*

**ЧАРНЯЎСКІ** Міхаіл Міхайлавіч (н. 7.3.1938, в. Круці Мядзельскага р-на), беларускі археолаг. Канд. гіст. навук (1971). Скончыў Мінскі педагагічны ін-т (1960). З 1966 навук. супрацоўнік Ін-та гісторыі АН Беларусі, з 1990 заг. аддзела археалогіі першабытнага грамадства. Даследуе матэрыяльную і духоўную культуру плямён каменнага і бронзавага вякоў паўн.-зах. Беларусі, першабытнае мастацтва на Беларусі. Праводзіў раскопкі помнікаў фінальнага палеаліту, мезаліту і неаліту ў басейнах Нёмана і Віліі, першабытных стаянак Крывінскага тарфяніку на Віцебшчыне. Даследаваў крэменездабыўныя шахты каля г. п. Краснасельскі і в. Карпаўцы Ваўкавыскага р-на, шэраг помнікаў бронзавага веку Панямоння. Вылучыў *нёманскую мезалітычную культуру*, з'яўляецца асноўным яе даследчыкам. Па матэрыялах раскопак вычленіў крывінскі тэрытарыяльны варыянт *нарвенскай культуры.* Аўтар навуковых, навукова-папулярных і празаічных твораў; мастак-карыкатурыст. Адзін з аўтараў «Нарысаў па археалогіі Беларусі» (ч. 1, 1970) і кнігі «Беларуская археалогія: Дасягненні археолагаў за гады Савецкай улады» (1987). Удзельнічаў у складанні бел. літаратурна-мастацкага календара на 1987 «Кола дзён». Апублікаваў успаміны Ларысы Геніюш «Споведзь» (Маладосць. 1990. № 1—6).



М. М. **Чарняўскі.**

*Тв.*: З глыбінь тысячагоддзяў. Мн., 1978; Неаліт Беларускага Панямоння. Мн., 1979; Бронзавы век на тэрыторыі Беларусі. Мн., 1981; Археалагічныя помнікі Міншчыны. Мн., 1984. *Э. М. Зайкоўскі.*

**ЧАРНЯХОЎСКАЯ КУЛЬТУРА,** археал. культура плямён *жалезнага веку*, якія ў канцы 2 — сярэдзіне 5 ст. н. э. насялялі стэпы, лесастэпы ад Ніжняга Падунаўя да левабярэжжа Дняпра, на Пн амаль дасягалі рубяжоў Бел. Палесся, дзе перамяжаліся з насельніцтвам вельбарскай і кіеўскай культур. Пачатак даследаванням Ч. к. паклаў укр. археолаг В. В. Хвойка, які ў 1900—01 раскапаў могільнік каля в. Чарняхоў Кіеўскай вобл. (адсюль назва). Насельніцтва займалася жывёлагадоўляй, земляробствам, рамёствамі. Ч. к. прадстаўлена групамі: селішчаў (размяшчаліся на паўд. схілах тэрас невял. рэк і ручаёў), гарадзішчамі (вядомы 3, умацаваныя валамі, равамі і каменнымі сценамі), грунтавымі могільнікамі. Выяўлены 3 тыпы жытлаў: паўзямлянкі і зямлянкі каркасна-плятнёвай канструкцыі (пл. 10—25 м²), наземныя глінабітныя (пл. 10—30 м²) і каменныя двухкамерныя (пл. 75—100 м²) дамы. На заключным этапе існавання культуры будаваліся зрубныя дамы. Жытлы абаграваліся агнішчамі, пазней глінабітнымі печамі або каменкамі. На паселішчах выяўлены шматлікія гасп. пабудовы і ямы-сховішчы. Сярод знаходак пераважае кераміка (гаршкі, карчагі, міскі, вазы, збаны, кубкі), часта арнаментаваная складанымі кампазіцыямі пэўнага сэнсу; ёсць ляпны посуд, невял. колькасць антычнага посуду, разнастайныя прылады працы, асабліва земляробчыя, прадметы побыту, упрыгожанні, дэталі адзення, зброі, рыштунку вершніка. Пахавальныя абрады — трупаспаленне (адбывалася па-за межамі пахавання, кальцыніраваныя косці ссыпалі ў ямку ці ў гліняную урну) і трупапалажэнне ў прамавугольных ямах галавой на З ці Пн. Сустракаюцца пахаванні ў ямах з падбоем і склепах-катакомбах. Пахавальны інвентар уключае гасп. і бытавыя рэчы, упрыгожанні, вупраж. Вядома больш за 3 тыс. помнікаў Ч. к., з якіх вылучаюць да 5 лакальных груп у залежнасці ад этнічнага складу насельніцтва (мяркуюць, што ў розных рэгіёнах у склад Ч. к. ўваходзілі скіфы-сарматы, хета-дакі, готы, славяне). У аснове Ч. к.— вытворча-тэхналагічныя дасягненні рымскіх правінцый і традыцыі стварыўшых яе народаў. Частка насельніцтва гэтай культуры ўдзельнічала ў фарміраванні слав. старажытнасцей 6—7 ст. На тэр. Беларусі рэчы Ч. к. знойдзены пры раскопках могільніка Лемяшэвічы (Пінскі р-н).




**Чатыры грошы.** Вялікае княства Літоўскае: 1. Жыгімонт II Аўгуст, 1566. Рэч Паспалітая: 2—3. Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, 1786, 1787.

*Літ.*: 101, 1379, 1386. *В. С. Вяргей.*

**ЧАРЭШЛЯ**, стаянкі каменнага веку каля в. Чарэшля Навагрудскага р-на. Даследавалі ў 1957 Н. М. Гурына і Ф. Д. Гурэвіч, у 1962 Гурына, у 1965 М. М. Чарняўскі.

Стаянка-1. За 1,5 км на ПнУ ад вёскі, на левым беразе Нёмана і воз. Чарэшля, каля вытоку р. Беланожка. Культурны пласт таўшч. да 0,4 м. Знойдзены крамянёвыя прылады, фрагменты керамікі *нёманскай культуры.* Датуецца пераважна 3-м тысячагоддзем да н. э.

Стаянка-2. За 2 км на ПнУ ад вёскі, на пясчанай дзюне. Знойдзены фінальнапалеалітычныя і мезалітычныя прылады.

На берагах воз. Чарэшля і на левабярэжжы Нёмана выяўлены шэраг стаянак каменнага веку, на якіх знойдзены расшчэпленыя крамяні.

*Літ.*: 288. *М. М. Чарняўскі.*

**ЧАТЫ́РЫ ГРО́ШЫ,** сярэбраная манета ВКЛ і Рэчы Паспалітай. 1) ВКЛ. Жыгімонт II Аўгуст. Адзнака наміналу — IIII (*лотавая проба* XIV, *лігатурная маса* 4,30 г). Выпускаў *Віленскі манетны двор* у 1565—69. 2) Рэч Паспалітая. Станіслаў Аўгуст Панятоўскі. Адзнака наміналу — 4 GR[ossus]. Выпускаў Варшаўскі манетны двор у 1766—86 (проба VIII $^2/_3$, маса 5,31 г), 1787 — сакавік 1794 (проба VIII $^1/_6$, маса 5,38 г), 24.3.1794—1795 (проба VIII $^2/_9$, маса 5,38 г).

*Літ.*: 1671, 1735.

**ЧАТЫ́РЫ КАПЕ́ЙКІ,** медная і сярэбраная манета Расійскай імперыі. Медныя Ч. к. (маса 20,48 г) атрыманы перачаканкай манет у дзве капейкі з-за падваення манетнай стапы медных эмісій. Адзнака наміналу 1762 на аверсе — чатыры пяціпрамянёвыя зорачкі, на рэверсе — **4/четыре/ копейки;** 1796 на аверсе — 4 кольцы з буйнымі рэльефнымі кропкамі ўсярэдзіне, на рэверсе — выява як на манеце 1762. Выпускалі Екацярынбургскі і Красны манетныя двары (адзнакі двароў гл. ў арт. *Манетныя двары Расійскай дзяржавы).* Вядомы таксама Ч. к. 1762, перачаканеныя з *пяці капеек* 1757 (маса 51,19 г). Сярэбраныя Ч. к. (*ліванезы, залатнікова проба* 72, лігатурная маса 1,10 г). Адзнака наміналу на рэверсе — 4. Выпускаў Красны манетны двор у 1756—57.

*Літ.*: 1615, 1620.

**ЧАЦВЯРТА́К,** распаўсюджаная ў 19 — пач. 20 ст. назва манеты наміналам у *двадцать пять копеек.*

**ЧАЦВЯРЦІ́ЧНЫ ПЕРЫЯД,** апошні, найбольш кароткі ў гісторыі Зямлі геалагічны перыяд, які працягваецца і цяпер. Гл. *Антрапаген.*

**ЧАЧЭ́РСК,** горад, цэнтр Чачэрскага р-на, прыстань на р. Сож пры ўпадзенні ў яе Чачоры. За 65 км на Пн ад Гомеля, 37 км ад чыг. ст. Буда-Кашалёўская на лініі Гомель — Жлобін, аўтадарогамі злучаны з Кармой, Веткай і з магістраллю Гомель — Магілёў.

Гарадзішча стараж. Ч. «Замкавая гара» размешчана на правым беразе р. Чачора і займае частку высокага берагавога плато. Мае форму круга пл. 0,5 га. Гарадзішча аддзелена шырокім (20—25 м) і глыбокім (3—7 м) ровам ад астатняй берагавой пляцоўкі, занятай вакольным горадам. Археал. даследаванні на гарадзішчы праводзілі ў 1928 А. М. Ляўданскі і С. А. Дубінскі, у 1975 М. А. Ткачоў (ускрыта 220 м²), у 1981 У. У. Багамольнікаў (108 м²), у 1981—82 І. М. Чарняўскі (больш за 112 м²). Устаноўлена, што ў выніку зносу кругавога абарончага вала, насыпанага з пяску, гліны і культурных адкладанняў, і праведзенай у пач. 19 ст. планіроўкі паверхні гарадзішча, культурны пласт размешчаны нераўнамерна. У паўд. частцы пляцоўкі ён мае таўшч. да 0,4 м, у паўночнай — да 4 м. Матэрыялы раскопак сведчаць, што жыццё на стараж. паселішчы пачалося ў эпоху неаліту і працягвалася ў жал. веку (мілаградская і зарубінецкая культуры).



**Чатыры капейкі.** 1. Пётр III, 1762. 2. Кацярына II, 1796.

Выяўлена кераміка — раннеславянская, роменска-боршаўскага тыпу, эпох Кіеўскай Русі і ВКЛ. Земляны абарончы вал гарадзішча з боку поля існаваў ужо ў 10 ст. і пазней неаднаразова падсыпаўся. Знаходкі даюць падставу меркаваць, што ў стараж. Ч. былі развіты прадзенне, ткацтва, выраб жалеза, ганчарнае, ювелірнае, кастарэзнае і інш. рамёствы. Апрача промыслаў, жыхары займаліся жывёлагадоўляй і сельскай гаспадаркай. Знойдзены 2 сашнікі, каса-гарбуша, серп, гліняныя шарападобныя і цыліндрычныя грузілы для рыбалоўных сетак, шыферныя прасліцы, жал. нажы, рыбалоўныя кручкі, больш за 300 шкляных бранзалетаў, шкляныя і хрусталёвыя пацеркі, пярсцёнкі, каменны крыжык-карсунчык, медны нацельны абразок 13 ст. з паяснай выявай Маці Боскай на знешнім баку і змеевіка на адваротным. Сярод металічных вырабаў — наканечнікі стрэл, арбалетныя балты, суліцы. Ёсць шмат кафлі (гаршковая 16 ст., рознатыповая паліваная, у т. л. і з геральдычнымі знакамі, і інш.), разны ганчарны посуд 14—18 ст. Амаль у цэнтры гарадзішча выяўлены цагляныя слупы (каля 1,5 м у папярочніку) ад будынка 18 ст. Памеры цэглы 23 × 13,5 × 5—6 см. У сярэднявеччы на месцы гарадзішча пабудаваны *Чачэрскі замак.*

Вакольны горад. На Пд ад гарадзішча за абарончым ровам размяшчаўся пасад стараж. Ч. пл. больш за 2 га. У выніку шурфоўкі ўздоўж вуліц Замкавай і Падабедава, а таксама збору матэрыялаў на агародах устаноўлена, што пасад у Ч. ўзнік у 11 ст.

Сярод знаходак — кераміка 11—18 ст., абломкі шкляных бранзалетаў, шыферныя прасліцы, косці жывёл. Таўшч. культурнага пласта па меры аддалення ад гарадзішча вагаецца ад 1,2 м да 0,4—0,2 м. Можна меркаваць, што ўжо ў 11 ст. пасад быў умацаваны драўлянай абарончай сцяной, пазней — валам з навальнымі драўлянымі канструкцыямі і ровам перад ім. Паводле пазнейшых гіст. крыніц, вакольны горад у 16—18 ст. засцерагаўся астрогам з вежамі і сценамі-гароднямі. Былі ўязныя вежы-брамы — Замкавая, Вялікая і «форта» Падольная, якая выводзіла на бераг Чачоры. Сістэма ўмацаванняў Ч. знікла ў канцы 18 ст.

Упершыню Ч. упамінаецца ў Іпацьеўскім летапісе пад 1159 як горад радзімічаў Чичерск, які кіеўскі кн. Ізяслаў Давыдавіч вярнуў чарнігаўскаму кн. Святаславу Ольгавічу. У 12—13 ст. уваходзіў у Чарнігаўскае княства. З сярэдзіны 14 ст. ў ВКЛ, цэнтр воласці, з 1509 мястэчка Віленскага ваяводства. З 1510 цэнтр Чачэрскага староства, меў правы гар. самакіравання, з 1566 у

Рэчыцкім пав. Мінскага ваяводства. З 1629 меў прывілей на штотыднёвы гандаль і на двухтыднёвыя кірмашы штогод. У антыфеад. вайну ўкр. і бел. народаў (1648—54) у наваколлі Ч. адбыліся сялянскія паўстанні. У 1654 горад займалі казацкія войскі І. Залатарэнкі. Да 1659 тэрыторыя Ч. была ў складзе гетманскіх казацкіх уладанняў на Беларусі. Потым зноў усталявалася ўлада феадалаў Рэчы Паспалітай. У 2-й пал. 18 ст. тут штогод адбываліся 3 кірмашы. З 1772 Ч. у складзе Расійскай імперыі.

*Літ.*: 144, 1193, 1298, 1301.

*М. А. Ткачоў.*

**ЧАЧЭ́РСКІ ЗА́МАК.** Існаваў у 14—18 ст. у г. *Чачэрск.* Пабудаваны на дзядзінцы летапіснага горада 10—13 ст. Займаў мыс карэннага берага р. Чачора (прыток Сажа). У 14—18 ст. пляцоўка замка мела амаль трохвугольную форму (пл. каля 0,5 га), была значна нахілена на Пн і ўзвышалася на 14 м над поймай Чачоры. Ад горада замак аддзяляў шырокі (20—25 м) і глыбокі (да 7 м) роў, па краі быў абведзены земляным валам з драўлянымі сценамі і вежамі. З Пн і У па знешнім і ўнутраным схілах вала ішлі 2 траншэі, запоўненыя цвёрдай чырванаватай глінай, што прадухіляла распаўзанне насыпу вала. У сярэдзіне 16 ст. цераз абарончы роў быў перакінуты пад'ёмны мост-«узвод», які падводзіў да ўязной замкавай брамы. Драўляныя рубленыя сцены замка былі абмазаны на вышыню «до бланкованья» глінай, што зводзіла да мінімуму магчымасць запаліць іх спец. стрэламі і захоўвала ад гніення.

У грамаце вял. кн. ВКЛ і караля Польшчы Жыгімонта II Аўгуста ад 12.2.1562 баярам, шляхце і мяшчанам Ч. з., напісанай у час Лівонскай вайны 1558—83, звернута ўвага чачэрцаў на стан іх замка, які патрабаваў тэрміновага «поправеня». Згадваецца «башта у вострозе при млыне, которая... замку тамошнему велми потребна», але якую, паводле звестак дзяржаўцы кн. Юрыя Зяновіча, мяшчане чамусьці «робити не хотели и в недбалстве себе покладали». Было загадана, каб яны «...оную башту у вострозе водле потребы заробили и забудовали». Агульная колькасць замкавых вежаў у той час невядомая, аднак у 17 ст. тут было 8. У 16 ст. парубежны Ч. з. неаднаразова асаджалі крымскія татары і рус. войскі. У 1506, 1523 і 1562 пуціўльскі намеснік кн. Рыгор Мяшчэрскі «с товарыщи... воевали Могилевские и Чичерские и Пропойские места». У замку пастаянна размяшчаўся невял. гарнізон казакоў на чале з ротмістрам. У час ваенных падзей гарнізон колькасна павялічваўся. Так, у пач. рус.-польскай вайны 1534—37 тут стаяла 150 коннікаў і 100 салдат-драбаў. Паводле гіст. крыніц, у 1563—73 колькасць казакоў у гарнізоне Ч. з. вагалася ад 10—15 да 20 чал. Гарнізон на чале з адным і тым жа ротмістрам нёс службу, як правіла, 3 гады. У красавіку 1570 у Ч. з. было 4 пушкары. У сярэдзіне 16 ст. гарнізон Ч. з. меў на ўзбраенні «ручницы губчастые», гакаўніцы, панцыры, інш. зброю і ваенны рыштунак, якія цэнтралізавана пастаўлялі сюды спец. «фурманы» з велікакняжацкага арсенала. Жыхары горада і воласці абавязаны былі «направлять» вал у Ч. з., клапаціцца пра драўляныя збудаванні, даваць круглы год па 6 старажоў для аховы і «береженья» ад агню, а таксама ўзводзіць умацаванні вакол горада. У 1633 рус. ваявода І. Балаш «с детьми боярскими и с казаками ходили под литовский город Чичерск». Відаць, яны не ўзялі яго і адступілі да Старадуба. У 1648 войска казацкіх палкоўнікаў Гаркушы і Падабайлы, якое прыйшло з-пад Быхава, мела намер захапіць Ч. з., аднак было разбіта тут войскам Я. Паца. У антыфеад. вайну ўкр. і бел. народаў 1648—54 Чачэрскам авалодалі ў красавіку 1649 сяляне, якія паўсталі, яны добра ўмацавалі



Непаліваны гаршчок 15 ст. з Чачэрска.

яго для абароны ад карных войск. У рус.-польскую вайну 1654—67 горад і замак неаднаразова асаджалі рус. войскі, у выніку чаго замкавыя ўмацаванні моцна пацярпелі і былі аднаўлены толькі пасля вайны. Гіст. крыніцы за 1682 паведамляюць пра наяўнасць на Замкавай гары 8 вежаў, у т. л. вежы-брамы і хваёвага двайнога астрога. Гэтыя пабудовы абкружаў абарончы роў. Інвентар Ч. з. за 1726 сведчыць, што тут меўся двухпавярховая ўязная брама, у якой знаходзіліся 12 «флінт», 3 шпагі; 20 прапарцаў, 1 «барда», стары арсенал і некалькі гасп. пабудоў. У абавязкі мяшчан уваходзілі рамонт і догляд за мастамі, грэбляй, замкавымі пабудовамі, гар. і замкавым астрогамі. Яны мусілі таксама «байніцы новыя рабіць, а старыя папраўляць згодна з даўнім звычаем». Сельскія «цяглыя людзі» мелі свае ўчасткі абароны ў замку, т. зв. «кватэры», якія яны павінна былі трымаць адрамантаванымі або «новыя ставіць». У інвентары Чачэрска ад 3.5.1763 апісваецца замкавая ўязная вежа-брама «з дрэва брусаванага ў тры паверхі з купалам, пакрытым драніцамі». Цераз абарончы роў быў перакінуты драўляны мост на зрубах з парэнчамі. Уваход у браму запіралі дубовыя вароты, абітыя жал. шынамі. Тут была і невял. ўваходная фортка. Ніжні паверх вежы-брамы займалі 2 цёмныя турмы і глыбокая яма са зрубам, куды саджалі злодзеяў. З двара на 2-і паверх вялі ўсходы з тарціц з балясінамі точанымі і парэнчамі. З размешчанай на 2-м паверсе залы траплялі на 3-і паверх. Тут было прасторнае памяшканне і выхад на баявую ашаляваную галерэю. Уверсе пад самым купалам размяшчаліся байніцы і баявы памост для стралкоў. Замкавыя гасп. пабудовы (лядоўня, піўніца, двухпавярховы лямус, стайня і інш.) былі абнесены палісадам «з дыляў дубовых, месцамі ў 3 рады, а месцамі ў 2 рады пастаўленых», у якіх былі зроблены байніцы. Каля іх для стралкоў меўся баявы памост, закрыты з боку двара дошкамі, а зверху — дранкай. Гэта была фактычна баявая галерэя, паколькі ўнутр яе вялі спец. дзверы. Паводле вопісу Чачэрска за 1765, горад, як і раней, меў уласную лінію ўмацаванняў. Па-ранейшаму існаваў замак з яго брамай Замкавай. Да нашага часу валы Ч. з. не захаваліся. Збярогся толькі замкавы роў, які з ПдУ дугой абгінае замчышча. Там, дзе раней быў мост, цяпер насыпана пясчаная дамба, што злучыла замчышча з горадам. *М. А. Ткачоў.*

**ЧВЭРЦЬ КАПЕ́ЙКІ,** медная манета Расійскай імперыі 1839—46 (маса 2,56 г), 1849—67 (маса 1,28 г), 1867—1916 (маса 0,82 г), уведзеная *грашовай рэформай Канкрына.*

Адзнака наміналу — $^1/_4$ **копейки серебром.** Выпускалі Сузунскі манетны двор у 1839—46; Колпінскі манетны двор — 1840—42; Екацярынбургскі манетны двор — 1840—43; без адзнак манетнага двара — 1840. Адзнака наміналу — $^1/_4$ **копейки.** Выпускалі Пецярбургскі манетны двор — 1867—71, 1876—1900; 1909—10, 1915—16; Екацярынбургскі манетны двор — 1867—75 (адзнакі манетных двароў гл. ў арт. *Манетныя двары Расійскай дзяржавы).*

*Літ.*: 1615, 1620.

**ЧВЭРЦЬ ТА́ЛЕРА,** сярэбраная манета ВКЛ і Польшчы наміналам у $^1/_4$ *талера.* У 16—17 ст. вядомы пад назвай *орт.* У пісьмовых крыніцах Беларусі канца 17—18 ст. ўпамінаецца таксама пад назвай чвэртка.

**ЧВЭРЦЬКО́ПКА,** сярэбраная манета, першы *паўталер (лотавая проба* XI $^3/_4$, *лігатурная маса* 13,90 г) ВКЛ, парытэтны чвэрці капы грошай або $^1/_2$ *паўкопкі.*

Выпускаў *Віленскі манетны двор* у 1564. На *аверсе* — увянчаная каралеўскай каронай манаграма імя Жыгімонта II Аўгуста, па баках дата — **15 — 64;** унізе адзнака наміналу — **XV** (грошай); легенды няма, на рэверсе — увянчаны велікакняжацкай шапкай падобны на «англійскі» геральдычны шчыт з гербамі Польшчы (аднагаловы арол), ВКЛ («Пагоня»), княства Кіеўскага (арханге Міхаіл), Жмудзі (мядзведзь, які крочыць улева), Валыні (прамы геральдычны крыж з падоўжанымі верхняй і ніжняй галінамі), у цэнтры — малы «англійскі» шчыток з гербам неапалітанскага роду Сфорца (звілістая змяя); легенды няма.

*Літ.*: 1667, 1740, 1741.

**ЧО́ВЕН,** лодка, выдзеўбаная з дрэва. Прыводзіцца ў рух пры дапамозе весла ці жэрдкі або ветрам пры падняцці ветразя. Найстаражытнейшы

драўляны Ч. выяўлены ў тарфяніку Маглемазэ (гл. ў арт. *Маглемазэ культура).* Выдзеўбаныя з суцэльнага ствала дуба, хвоі або выпаленыя вуголлем Ч. знаходзяць у балотах, поймах, на дне вадаёмаў Еўропы. Вядома больш за 80 такіх знаходак. Вытворчасць Ч. стала магчымай пры дапамозе крамянёвых цёслаў, касцяных і рагавых рубячых прылад, шырока вядомых у эпоху неаліту. Даўжыня Ч. вагалася ад 3 да 5 м.

Старажытныя Ч. былі вузкія, начоўкападобныя, часам з перамычкамі, бакавымі стабілізатарамі або балансірамі. Паводле наскальных малюнкаў, выяўленых на Пд Швецыі, у бронзавым веку існавалі таксама каркасныя Ч., абцягнутыя скурай, абшытыя карой або дошкамі. У якасці асн. матэрыялу для вытворчасці лодак-аднадрэвак (моналсілаў) выкарыстоўваўся дуб. Таму, відаць, вял. лодкі на Палессі да нашага часу называюць «дубамі». З больш лёгкіх парод дрэва (асіна, вольха, таполя) выраблялі невял. даўбёнкі з расшытымі, разгорнутымі бартамі і тонкімі (25—40 мм) сценкамі. Сярэдзіна такіх Ч. выбіралася цёсламі-«капытамі» толькі да калкоў-«старажоў», забітых ланцужкамі ў свідравіны. Потым залівалася вада і загатоўка распарвалася над вогнішчам. Унутр калоды забівалі распоркі, якія амаль удвая расшыралі Ч. у сярэдняй частцы. Падобная тэхналогія была распаўсюджана на тэрыторыі ад Рэйна да Дняпра і захавалася ў насельніцтва рачных далін са старажытнасці да нашага часу (вёскі Снядзін Петрыкаўскага р-на, *Хвашчоўка).*

*Літ.:* 536. *У. Ф. Ісаенка.*

**ЧО́РНАЯ ЛУ́ЖА,** курганны могільнік каля б. хутара Чорная Лужа Мядзельскага р-на. За 200 м на ПнУ ад хутара. У канцы 19 ст. налічваў 40 цэлых насыпаў і амаль столькі ж пашкоджаных. Зараз не існуе. У 1895 Ф. В. Пакроўскі раскапаў 12 курганоў дыям. 5,5—11,5 м, выш. 0,9—1,3 м. Месцамі каля насыпаў прасочваліся сляды раўкоў, а каля асновы ляжалі камяні. У адным кургане знаходзіліся ад 1 да 5 пахаванняў па абраду трупаспалення. Рэшткі спаленняў у большасці выпадкаў змешчаны ў грунтавых ямах глыб. да 0,6 м, радзей на гарызонце або ў насыпе. Рэшткі трох спаленняў знаходзіліся ў каменных скрынях, двух — на каменных вымастках, аднаго — унутры каменнага вянка. У некалькіх выпадках пад перапаленымі касцямі меліся падсыпкі з пяску або жвіру.

Пахавальны інвентар багаты: наканечнікі коп'яў, баявыя сякеры, ручкі і умбоны шчытоў, бронзавыя бранзалеты, пярсцёнкі, жал. фібулы, спражкі, жал. нажы, пінцэты, гліняныя прасліцы.

Могільнік належаў балцкаму (усходнелітоўскаму) насельніцтву, датуецца 2-й пал. 1-га тысячагоддзя.

*Літ.:* 914. *Я. Г. Звяруга.*

**ЧУРЫ́ЛАВА,** курганны могільнік культавага прызначэння каля в. Чурылава Міёрскага р-на. За 500 м на Пн ад вёскі, на левым беразе Зах. Дзвіны, у лесе, 12 круглых (дыям. 4—9 м) і авальных (памеры 6×7, 8×9 м) у плане курганоў вышынёй да 2 м. Даследавалі ў 1937 Г. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіч (6), у 1981, 1985, 1987 Л. У. Дучыц (3). Курганы насыпаны з пяску. На аснове і ў насыпах выяўлены вугалі і сляды вогнішчаў. Каля асновы некаторых курганоў былі каменныя вымасткі, у адным выяўлены 2 кольцападобныя агароджы з валуноў, фрагменты керамікі позняга сярэднявечча, косці чалавека. Датуецца 14—18 ст.

*Літ.:* 346, 1435. *Л. У. Дучыц.*

**ЧЫГІ́РЫНКА,** археал. помнікі каля в. Чыгірынка Кіраўскага р-на.

Стаянка грэнскай культуры. На паўд.-зах. беразе Чыгірынскага вадасховішча, за 1,5 км вышэй плаціны, за 100 м на У ад дарогі на в. Колбава. Памер 40×100 м. Адкрыў у 1981 і даследаваў 108 м² у 1991 В. Ф. Капыцін. Культурны пласт 0,1 м.

Выяўлены тронкавыя наканечнікі стрэл з рэтушаваным пяром, рэтушныя разцы, канцавыя скрабкі, скоблі з выцінкай, аднапляцовачныя нуклеусы. У якасці сыравіны для вырабу прылад працы выкарыстоўвалі цёмна-шэры мелавы крэмень, які апрацоўвалі на стаянцы, што пацвярджаюць прадукты яго расшчаплення: дробныя асколкі і лускавінкі, пласціны, адшчэпы, сколы. Матэрыялы помніка сведчаць аб пранікненні носьбітаў грэнскай культуры ў басейн р. Друць.

Курганны могільнік эпохі Кіеўскай Русі. На паўд. ускраіне вёскі, на правым беразе Друці, каля дарогі на в. Стайкі. Курганы размешчаны паралельна прытоку Друці р. Хмелінка. Захавалася 13 насыпаў выш. 0,9—3 м, дыям. 4—11 м. Частка курганоў знішчана пры будаўніцтве дарогі, частка разворваецца. Вядомы з 1873. Абследавалі ў 1893 Е. Р. Раманаў, у 1978 Я. Г. Звяруга, у 1987 В. Ф. Капыцін.

*Літ.:* 408а, 568, 1046. *В. Ф. Капыцін.*

**ЧЫЖА́ХА,** археал. помнікі каля в. Чыжаха Бярэзінскага р-на.

Паселішча мезалітычнай днепра-дзяснінскай культуры. За 200 м на ПнЗ ад вёскі, на 2-й надпоплаўнай тэрасе р. Бярэзіна, ва ўрочышчы Гарадок, каля могілак. Выявіў у 1929 І. Р. Калодкін, абследаваў у 1930 М. М. Канвісараў, даследаваў 280 м² у 1978—89 У. П. Ксяндзоў. Пляцоўка выцягнута з З на У, памер 200×75 м. Культурны пласт 0,3—0,5 м.

Знойдзена каля 1500 рэчаў: загатоўкі і вырабы з мелавога шэрага крэменю (нуклеусы, пласціны, наканечнік стралы, вастрыі, адшчэпы, рэтушаваныя пласціны, укладышы, скрабкі, праколкі), адзінкавыя прылады працы з «сожскага» крэменю.

Паселішча датуецца прыкладна 7-м тысячагоддзем да н. э.

Гарадзішча жал. веку. За 300 м на Пн ад вёскі, на правым беразе р. Бярэзіны, пры ўпадзенні ў яе безназоўнага ручая, ва ўрочышчы Гарадок. Выш. над поймай каля 17 м. Выявілі ў 1929—30 Калодкін і Канвісараў, абследаваў у 1931 А. М. Ляўданскі, даследавалі ў 1963 Л. Д. Побаль, у 1979 Т. С. Бубенька. Пляцоўка памерам 110×102 м умацавана 2 дугападобнымі валамі выш. да 2 м і равамі глыб. 2,5 м. На Пд пляцоўкі валы разбураны, па краях захаваліся траншэі часоў Вял. Айчыннай вайны. Культурны пласт 0,5—0,7 м. Знойдзены крэмень, ляпная гладкасценная кераміка *мілаградскай культуры* і ранняга этапу *зарубінецкай культуры.* Частка керамікі штрыхаваная. Датуецца 7 ст. да н. э.— 2 ст. н. э.

*Літ.:* 625, 718.

*У. П. Ксяндзоў, Т. С. Бубенька.*

**ЧЫЖО́ЎКА,** стаянкі каменнага веку каля в. Чыжоўка Дубровенскага р-на.

Стаянка-1 днепра-дзяснінскай культуры. За 300 м на ПдУ ад вёскі, на правым беразе Дняпра. Выш. над узроўнем вады 8 м. Пл. 1000 м². Выявіў у 1981 і даследаваў 336 м² у 1986 У. П. Ксяндзоў. Культурны пласт разбураны ворывам і другасным засяленнем помніка ў познім сярэднявеччы.

На глыб. да 0,4 м знойдзены крамянёвыя вастрыі, канцавыя скрабкі, праколкі, скоблі, укладышы, сякеры, рэтушаваныя пласціны і адшчэпы.

Датуецца 5-м тыс. да н. э.

Стаянка-2 эпохі неаліту. За 300 м на У ад стаянкі-1, на мысе. утвораным ручаём і правым берагам Дняпра. Выявіў і абследаваў у 1981 Ксяндзоў. Культурны пласт 0,15—0,2 м. Знойдзены скрабкі. нуклеусы, пласціны, адшчэпы, фрагменты ляпнога посуду. Датуецца 4—2-м тысячагоддзямі да н. э.

*Літ.:* 623. *У. П. Ксяндзоў.*

**ЧЫРВО́НАЯ ЗО́РКА,** археал. помнікі каля в. Чырвоная Зорка Бярэзінскага р-на.

Гарадзішча. За 1,5 км на У ад вёскі, ва ўрочышчы Царковішча (Равінка), у пойме правага берага р. Бярэзіна. Пляцоўка круглаватай формы, памер 25×27 м, выш. над поплавам каля 3 м, з ПдЗ умацавана валам. Адкрыў і даследаваў 164 м² у 1964—65 Л. Д. Побаль.

Выяўлены гасп. ямы, пахаванне са спаленнем у круглай яме, ляпная гладкасценная кераміка, жал. наканечнік кап'я, глінянае біканічнае прасліца.

Датуецца 6—9 ст.

Селішча-1. Каля зах. боку гарадзішча. Пл. 0,5 га. Даследаваў 144 м² у 1965 Л. Д. Побаль. Культурны пласт да 0,6 м.

Выяўлены гасп. ямы, грубаляпная гладкасценная кераміка, фрагменты посуду з загладжанай паверхняй, гаршкоў

з рэдкімі расчосамі, зерняцёрка, шлак, косці жывёлы.

Селішча-2 мілаградскай і позняга этапу зарубінецкай культур, эпохі Кіеўскай Русі. За 700 м на ПнЗ ад гарадзішча, ва ўрочышчы Узвечаў. Пл. каля 7 га. Адкрыў у 1931 А. М. Ляўданскі, даследаваў 612 м² у 1964 Побаль.

Знойдзены вырабы з жалеза, бронзы, шкла, гліняныя прасліцы, фрагменты тыгляў, вырабы з крэменю, шлакі. Выяўлены гасп. ямы, слупавыя ямы ад пабудоў, 2 бескурганныя трупаспаленні. Сабраныя на селішчы краязнаўцам П. А. Прыбыткіным рэчы захоўваюцца ў Багушэвіцкай сярэдняй школе.

*Літ.:* 718. *Л. Д. Побаль.*

**ЧЫРВО́НАЯ СЛАБАДА́**, стаянка сярэднедняпроўскай культуры позняга неаліту. За 1 км на З ад в. Чырвоная Слабада Бялыніцкага р-на, на 1-й надпоплаўнай тэрасе левага берага р. Друць, за 200 м на Пд ад б. паромнай пераправы. Памер 250×30 м. Адкрыў у 1981 і даследаваў 170 м² у 1982 В. Ф. Капыцін. Культурны пласт 0,2 м.

Выяўлены крамянёвыя прылады працы: канцавыя, закругленыя і стральчатыя скрабкі, разцы рэтушныя і на рагу зламанай загатоўкі, серпападобныя нажы, клінападобныя сякеры, праколкі, вастрыі, вырабы з выемкамі, рэтушоры, пласціны і адшчэпы з рэтушшу, наканечнікі стрэл блізкай да трохвугольнай формы з прамой, увагнутай ці злёгку пукатай асновай, апрацаваныя плоскай двухбаковай рэтушшу, ромбападобныя наканечнікі дроцікаў. Знойдзены фрагменты керамікі з раслліннымі дамешкамі ў цесце, радзей з дамешкамі буйназярністага кварцавага пяску, арнаментаваныя адбіткамі дробназубчастага грэбеня, венчыкі злёгку адагнутыя, зрэдку пад венчыкамі цыліндрычныя ямачкі. Выяўлена невял. колькасць фрагментаў ляпной керамікі




**Чырвонец.** 1—5. Пётр I, 1701, 1707, 1712, 1716 (для замежных плацяжоў), 1714 (двайны чырвонец). 6. Пётр II, 1729. 7. Ганна Іаанаўна, 1738. 8—12. Лізавета Пятроўна, 1751, 1752, 1749 (двайны чырвонец), 1751 (двайны чырвонец), 1751 (двайны чырвонец). 13. Пётр III, 1762. 14—15. Кацярына II, 1766, 1796.

сярэднедняпроўскай культуры. Посуд шарападобнай формы з высокай адагнутай шыйкай, арнаментаваны пераважна гарызантальнымі лініямі і адбіткамі шнура.

Помнік датуецца 3—2-м тысячагоддзямі да н. э.

*Літ.:* 577. *В. Ф. Капыцін.*

**ЧЫРВО́НЕЦ** (ад польск. czerwony чырвоны). 1) Агульная назва ў Расіі з пач. 15 ст. зах.-еўрап. залатых манет (*гульдэны, дукаты, фларыны, цэхіны*) і адначасова залатых *манет-данатыў*. 2) Залатыя манеты 1701—97 без адзнакі наміналу, эмітаваныя Расіяй па стандарце зах.-еўрап. дуката, якія не мелі фіксаванага эквіваленту ў рублях і капейках.

Выпускалі Красны, Кадашаўскі і Пецярбургскі манетныя двары ў 1701—03, 1706—07, 1710—11 (*залатніковая проба* 93, *лігатурная маса* 3,47 г), 1712—14 (проба 94 $^1/_{10}$, маса 3,47 г), 1796—97 (проба 94 $^2/_3$, маса 3,49 г; легенда на лацінскай мове), 1729—30, 1738—39, 1742—44, 1746—47 (проба 93, маса 3,47 г), 1749, 1751—53 (проба 94 $^2/_3$, маса 3,47 г; чаканіліся таксама «андрэеўскія Ч.», на рэверсе якіх выява распяцця св. Андрэя замест традыцыйнага двухгаловага арла, на большасці экз.— год, месяц, нярэдка таксама і дата дзярж. ўказа на чаканку гэтай партыі манет), 1757; з 1762 — толькі Пецярбургскі манетны двор у 1762—63, 1766, 1796 (проба 94, маса 3,47 г), 1796—97 (проба 94 $^2/_3$, маса 3,49г; адзнакі двароў гл. ў арт. *Манетныя двары Расійскай дзяржавы*). У 1701—02, 1714, 1749, 1751 выпускаліся двайныя Ч. (маса 6,94 г).

3) Назва ў расійскіх афіцыйных дакументах 19 ст. залатых манет з адзнакай наміналу — **3 рубля 20 zlot** (проба 88, маса 3,93 г), якія выпускалі Пецярбургскі манетны двор у 1834—41 і *Варшаўскі манетны двор* — 1834—40. 4) Назва залатых 3-рублёвых манет (проба 88, маса 3,93 г), якія чаканіў Пецярбургскі манетны двор у 1869—85. 5) Банкаўскія білеты РСФСР, потым СССР вартасцю ў 1, 2, 3, 5, 10, 25, 50 Ч. у залатым пераліку. 1 Ч. быў роўны 1 залатніку 78,24 долі (7,74234 г) чыстага золата, г. зн. залатой дарэвалюцыйнай манеце ў *дзесяць рублёў*. Выпускалі ў 1922—47, кожны Ч. роўны 10 рублям казначэйскімі білетамі. 6) Залатыя манеты (*метрычная проба* 900, маса 8,60 г) РСФСР (1923) і СССР (1925, пробны). Выпускаў Петраградскі (Ленінградскі) манетны двор. Упершыню манеты былі з адзнакай наміналу — **один червонец.** У 1974—82 выпускалі Ленінградскі і Маскоўскі манетныя двары як калекцыйныя манеты (гл. ў арт. *Манеты мемарыяльныя СССР*). 7) Сінонім панящця «грошы».

*Літ.:* 1537, 1615, 1620, 1638.

*В. С. Касмылёў.*

**ЧЫСТКА І КАНСЕРВА́ЦЫЯ СТАРАДА́ЎНІХ МАНЕ́Т,** працэс зняцця каразійных і інш. вокіслаў з паверхні стараж. манет для дакладнага прачытання легенд, вызначэння выяў на ёй.

Каб правільна выбраць рэактыў для апрацоўкі, вызначаюць, з якога металу выбіта манета. Перад ачысткай манеты змяшчаюць у посуд з вадой на 2—3 дні для змякчэння або разрыхлення налёту. Зляпленыя каразійнай масай манеты кладуць у нагрэты да 30—50 °С 5—10%-ны раствор едкага натрыю. Хімічная чыстка робіцца звычайна разам з механічнай (з дапамогай шчотак са шчаціння, латуні або шклянога валакна). На медных і бронзавых вырабах карозію закісу медзі (вішнёва-чырвоны колер) здымаюць 5—15%-ным растворам вуглякіслага амонію, вуглякіслай медзі (цёмна-зялёны) — 5—10%-ным растворам лімоннай кіслаты, вуглякіслага свінцу (бледна-жоўты) — 10%-ным растворам воцатнай кіслаты. Нярэдка пасля чысткі манеты набываюць яркі бляск, таму для надання стараж. выгляду іх вытрымліваюць у нагрэтым да 80 °С растворы з 50 г меднага купаросу, 5 г марганцавакіслага калію на 1 л дыстыляванай вады. Сярэбраныя манеты звычайна менш пашкоджваюцца карозіяй. Часцей за ўсё яны пакрыты вокісламі медзі розных адценняў зялёнага колеру. Ачышчаюць іх у растворы 5%-най сернай ці 5—10%-най мурашынай кіслот. Зрэдку на сярэбраных манетах бывае фіялетава-шэры налёт рагавога серабра, які здымаюць 5—10%-ным растворам аміяку або хлорыстага амонію. Найб. устойлівыя да карозіі залатыя і плацінавыя манеты, таму іх чыстка абмежавана прамыўкай у мурашынай або лімоннай кіслотах, ацэтоне, спірце або бензіне, потым вытрымкай у 5—10%-ным растворы сернай, мурашынай або лімоннай кіслот. Пасля чысткі манеты абавязкова некалькі разоў прамываюць у дыстыляванай вадзе, прасушваюць — апускаюць у ацэтон ці спірт або вытрымліваюць нейкі час пры тэмпературы не вышэй за 100 °С, потым кансервуюць — пакрываюць іх тонкім слоем парафіну або сінтэтычнай смалы.

*Літ.:* 1654. *В. Н. Рабцэвіч.*

**ЧЭРНІКА́ЎШЧЫНА,** археал. помнікі каля в. Чэрнікаўшчына Дзяржынскага р-на.

Курганны могільнік дрыгавічоў. За 800 м на ПнУ ад вёскі, у полі, абапал дарогі ў в. Цяўлава. 8 круглых курганоў выш. 1,5—3,5 м, дыям. 5—19 м. Некаторыя насыпы маюць на вяршынях плоскія пляцоўкі. Адзін курган дыям. 14,5, выш. 3 м у вёсцы каля школы. Выявіў і абследаваў у 1870-я г. Р. Г. Ігнацьеў. Налічвалася прыкладна 100 круглых і падоўжана-авальных курганоў. У 1896 У. З. Завітневіч даследаваў 13 насыпаў. Пахавальны абрад — у большасці курганоў трупапалажэнне пераважна галавой на З на мацерыку, у насыпе і ў падкурганных ямах глыб. ад 0,8 да 1,4 м, у некаторых выпадках на рэштках рытуальных вогнішчаў. У адным кургане з 4 пахаванняў 2 галавой на Пн і Пд. У 2 курганах пахаванні па абраду трупаспалення ў насыпе. Выяўлены асобныя пахаванні ў драўляных трунах. Пахавальны інвентар: жал. нажы (адзін з касцяной ручкай), бронзавы пярсцёнак, сярэбраныя і бронзавыя скроневыя кольцы, сердалікавыя, шкляныя, золаташкляныя і бронзавыя пацеркі, жал. абручы ад драўляных вядзёр. Датуецца 10—11 ст., магчыма, 12 ст.

Селішча-1. На ПнУ ад паўн.-зах. ускраіны вёскі, на правым беразе р. Отрач (прыток Усы). Пл. 1,5 га. Адкрыў і абследаваў у 1987 Ю. А. Заяц. Знойдзены фрагменты ганчарнага керамічнага посуду 10—1-й пал. 13 ст. Раскопкі не праводзіліся.

Селішча-2. У паўн.-зах. частцы вёскі. Адкрыў і абследаваў у 1987 Заяц. У культурным пласце матэрыялы 16—18 ст. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* 378, 381. *Ю. А. Заяц.*

**ЧЭ́РНІЧЫ,** селішчы жал. веку, эпохі Кіеўскай Русі і ранняга сярэднявечча каля в. Чэрнічы Жыткавіцкага р-на.

Селішча-1. За 200 м на Пн ад вёскі, на правым беразе р. Прыпяць, ва ўрочышчы Старое Сяло. Пл. каля 1600 м². Выявіў у 1961 і абследаваў у 1974 Л. Д. Побаль, даследаваў у 1982 і 1983 М. Ф. Гурын (252 м²). Культурны пласт каля 1 м.

У перадмацерыковым слоі выяўлена шмат фрагментаў ляпнога посуду *пражскай культуры*, асобныя кавалкі глянцаванай керамікі *зарубінецкай культуры*, гліняныя прасліцы, кавалкі балотнай руды і металургічнага шлаку, косці свойскай і дзікай жывёлы, рыбы. У сярэднім слаі культурнага пласта знойдзены фрагменты ганчарнага посуду, вял. карчагі (дыям. у шырокай частцы 70 см, шыйка каля 20 см, таўшчыня сценак каля 1,5 см) з наляпнымі арнаментаванымі валікамі, шыферныя праслiцы, жал. вырабы і паўфабрыкаты, шкляныя бранзалеты, паліхромныя пацеркі эпохі Кіеўскай Русі. Бліжэй да паверхні знойдзены фрагменты паліванай ганчарнай керамікі, шклянога посуду, гліняныя курыльныя люлькі, цацкі-свістулькі ў выглядзе каня, вырабы з бронзы (абразок-падвеска, скроневае кольца, пярсцёнкі і інш.), жалеза (нажы, сярпы, лязо сякеры, спражкі, падковы), каменныя тачыльныя брускі, манеты Рэчы Паспалітай (грошы, соліды) і рускай чаканкі (дзенгі, капейкі), фрагменты посуду (т. зв. «рэйнскі тавар»). У рэчышчы Прыпяці пры паніжэнні ўзроўню вады каля берага выяўлены 2 драўляныя калодзежы. Мяркуючы па матэрыялах, пляцоўка асвоена зарубінецкім насельніцтвам, на змену якому прыйшлі прадстаўнікі пражскай культуры. Пазней частыя паводкі прымусілі людзей перанесці пабудовы далей ад ракі.

Селішча-2. За 600 м на ПнУ ад вёскі, ва ўрочышчы Балоцце. Займае пляцоўку на пойме старыцы р. Прыпяць. Пл. 4,6 га. Выявіў у 1961 Побаль. На паверхні сабрана ляпная кераміка ранняга жал.

веку і ганчарны посуд ранняга сярэднявечча.

*Літ.:* 282, 283, 899. *М. Ф. Гурын.*

**ЧЭРЫКАЎСКІ ГІСТОРЫКА-КРАЯЗНАЎЧЫ МУЗЕЙ.** Заснаваны ў 1983 у г. Чэрыкаў, адкрыты ў 1986. У археал. калекцыі больш за 100 прадметаў (1991) з раскопак мезалітычных паселішчаў *Горкі, Крынічная* і інш. У экспазіцыі бівень і зуб маманта, крамянёвыя адшчэпы, каменныя свідраваныя і дзяржанневыя сякеры бронзавага веку. У нумізматычнай калекцыі 350 манет Рус. і зах.-еўрап. дзяржаў пераважна 17—20 ст.

**ЧЭХ,** назва манеты наміналам




**Чэхі сеўскія.** 1. Івана V Аляксеевіча. 2. Пятра Аляксеевіча [1682—96].

у *паўтара гроша* і *драйпёлькер* на Беларусі, Украіне і сумежных з імі тэр. Расіі ў 17—18 ст. Гл. таксама *Чэх пуціўльскі, Чэх сеўскі.*

**ЧЭХ ПУЦІЎЛЬСКІ,** руская білонная манета-перайманне польскага *паўтара гроша* 1620-х г., выпускам якой у г. Пуціўлі (гл. ў арт. *Манетныя двары Расійскай дзяржавы)* мелася стварыць умовы для замацавання расійскай манеты на рынках далучанай да Расіі Украіны, дзе паўтараграшовік шырока абарачаўся пад назвай *чэх.* У снежні 1675 выкананы праектны малюнак Ч. п. (на *аверсе* герб ВКЛ «Пагоня», замест аднагаловага арла Польшчы — двухгаловы арол Расіі), устаноўлена яго якасць (*лотавая проба* I 3/5—III 1/5, *лігатурная маса* 1,06—1,07 г); легенды ў выглядзе абрэвіятур на лацінскай мове (імя і тытулатура Аляксея Міхайлавіча). Смерць манарха перапыніла будаўніцтва манетнага двара, якое аднавілася пры яго пераемніку Фёдару Аляксеевічу. Новы праектны малюнак Ч. п. (1677) адрозніваўся ад папярэдняга імем эмітэнта (Фёдар) і аверсным малюнкам (двухгаловы арол на ўсё поле манеты), заменена якасць (проба да V 1/3, маса тая ж). Па невядомых прычынах двор не запрацаваў і эмісія не адбылася. Расійскі чэх выпушчаны праз 10 гадоў (гл. *Чэх сеўскі).*

*Літ.:* 1533, 1721. *В. Н. Рабцэвіч.*

**ЧЭХ СЕЎСКІ,** руская білонная манета 1686—87 (запланаваныя *лотавая проба* IV, *лігатурная маса* 0,86 г зменены на пробу V 1/3, масу 0,95 г), якая пераймала польскія *паўтара гроша* 1620-х г. Выпуск манеты прызначаны для рынкаў далучанай да Расіі Украіны (1654), Северскай зямлі (Браншчына) і выплаты жалавання ўдзельнікам 1-га Крымскага паходу (1687). Кантрабандай Ч. с. распаўсюджваўся на тэр. Беларусі ў складзе Рэчы Паспалітай. Чаканіў Сеўскі манетны двор (гл. ў арт. *Манетныя двары Расійскай дзяржавы).* У аснову знешняга выгляду Ч. с. пакладзены праектны малюнак *чэха пуціўльскага* 1677: на аверсе — увянчаны 3 каронамі двухгаловы арол, абкружаны жамчужным абадком; кругавая лацінская легенда — **I**[oannes] **A** [lexiewitz] **P** [etrus] **A** [lexiewitz] **D** [ei] **G** [ratia] **C** [caesares] & **M** [agni] **D** [uces] **T** [otius] **M** [agnae] & **P** [arvae] & **A** [lbac] **R** [ussiae] **A** [utocratores] — І[аан] А[ляксеевіч] П[ётр] А[ляксеевіч] Б[ожай] М[іласцю] Ц[ары] І В[ялікія] К[нязі] У[сея] В[ялікай] І М[алой] І Б[елай] Р[асіі] С[амадзержцы]. На рэверсе — дзяржава (сімвал улады), абкружаная жамчужным абадкам, на яе гарызантальным паяску 4, на вертыкальным — 2 шасціпрамянёвыя зорачкі; кругавая легенда — **mon**[eta] **nov**[a] **facta siev** [sk] **a**[nno] **1686** — ман[ета] нов[ая] дзелана [ў] СЕЎ[ску] Г[од] 1686. Асноўная колькасць манет выпушчана ў 1687 з датай 1686. Першая пробная партыя Ч. с. (531 экз.) адчаканена 19.9.1686, другая (12 500 экз.) — 28.10.1686. Пушчаны ў абарачэнне 29.10.1686. Але нізкапробную сеўскую манету рынак не прыняў, таму царскім указам ад 16.9.1687 яна знята з абарачэння. На Беларусі абарачаўся па рэальнай вартасці ў 40 % ад намінальнай (1,5 *гроша),* роўнай 0,6 гроша.

*Літ.:* 1533, 1721. *В. Н. Рабцэвіч.*



**ШАБЛЮК** Валерый Уладзіміравіч (н. 3.8.1953, г. п. Узда Мінскай вобл.), бел. археолаг. Канд. гіст. навук (1991). Скончыў БДУ (1975). З 1976 настаўнік сярэдняй школы, з 1980 малодшы навуковы супрацоўнік Ін-та гісторыі АН Беларусі. Даследуе сельскія паселішчы 14—18 ст. у бас. Нёмана.

*Тв.:* Феадальныя пасяленні XVI—XVIII стст. на р. Зэльвянцы // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1984. № 1; Раскопкі селішча // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. 1984. № 1; Раскопкі на Кальвінаўцы // Там жа. 1986. № 4; Кафля з Ваўкавышчыны // Там жа. 1989. № 2; Археалагічныя помнікі ў басейне ракі Рось (разам з Н. В. Шаблюк) // Матэрыялы рэсп. навук.-практ. канф. «Музей і развіццё гістарычнага краязнаўства». Гродна, 1990.

**ШАБЛЯ** (венг. szablya ад szabni рэзаць), сякучая халодная зброя з выгнутым адналязовым клінком і дзяржаннем (эфесам). Першапачаткова вядома ў Персіі, Асірыі, Егіпце. У 9 ст., дзякуючы кантактам



В. У. **Шаблюк.**

з хазарамі, полаўцамі і печанегамі, трапіла на ўсх.-слав. землі. На тэр. Маскоўскай дзяржавы з 14 ст. Ш.— пануючы від халоднай зброі блізкага бою. На Беларусі пад уплывам польскага і венгерскага ваеннага мастацтва Ш. асабліва актыўна выкарыстоўвалі з канца 16 ст., калі яна стала неад'емнай часткай баявога рыштунку лёгкай конніцы і любімай зброяй шляхты. Даўж. клінка Ш. 80—95 см, вага 2—2,5 кг. З 2-й пал. 17 ст. яе дзяржанне забяспечвалася ахоўным прыстасаваннем (было замкнутым). Шабельнікі ВКЛ сканструявалі «фурдумент» — спецыяльны шчыток, які закрываў кісць рукі. Ш. бел. майстроў, у прыватнасці магілёўскіх, у 17 ст. карысталіся попытам у Расіі і на рынках Польшчы. Ножны ад Ш. 17 ст. знойдзены ў Мсціславе.

*Літ.:* 1428, 1457, 1468. *Г. М. Сагановіч.*

**ШАДЫРА** Вадзім Іосіфавіч [н. 1.3. 1947, г. Пячора Кожвінскага (цяпер Пячорскага) р-на Комі АССР], беларускі археолаг. Канд. гіст. навук (1981). Скончыў БДУ (1972). Працуе ў Ін-це гісторыі АН Беларусі з 1982 старшы навук. супрацоўнік, з 1991 заг. аддзела археалогіі жал. веку. Вывучае жал. век басейна Зах. Дзвіны. Аўтар больш як 40 навук. работ. Адкрыў і дасле-

даваў шэраг помнікаў ранняга жал. веку на Пн Беларусі. Прытрымліваецца думкі пра балцкую прыналежнасць асн. культур ранняга жал. веку на тэр. Беларусі.

*Тв.:* Гарадзішчы ранняга жалезнага веку на поўначы Беларусі // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1979. № 5; Скотоводство и земледелие в раннем железном веке на севере Белоруссии // Древности Белоруссии и Литвы. Мн., 1982; О железном веке северной Белоруссии // Древнерусское государство и славяне. Мн., 1983; Древности балтов Белорусского Подвинья // Проблемы этногенеза и этнической истории балтов: Сб. ст. Вильнюс, 1985; Ранний железный век северной Белоруссии. Мн., 1985; Да гісторыі жывёлагадоўлі і палявання на паселішчах Пруднікі (III—XI стст. н. э.) (разам з В. В. Шчагловай, Г. В. Ласкавым) // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1990. № 3.

**ШАЛКО́ВА,** археал. помнікі каля былой в. Чарнаполіца ў Полацкім р-не.

Курганны могільнік. За 1 км на ПнУ ад вёскі, у лесе. Мясц. назвы Курганы, Французскія магілы. Падзелены на 4 часткі, 64 курганы круглай ці авальнай формы, дыям. ад 5 да 15 м, выш. 0,5—2 м. Каля многіх прасочваюцца раўкі. Выявіў і даследаваў 2 курганы у 1988 Г. М. Семянчук. Абодва насыпаны з пяску, у аснове — попельна-вугальная праслойка. Адзін з іх пусты, у другім пахаванне па абраду трупапалажэння галавой на ПдЗ у падкурганнай яме; знойдзены фрагмент жал. нажа і бронзавая спражка з арнаментам у выглядзе насечак, на якой захаваліся рэшткі тканіны, ганчарная кераміка. Датуецца 11—12 ст.

Гарадзішча. За 800 м на ПдЗ ад могільніка. Мясц. назва Батарэя. Пляцоўка круглай формы, дыям. 70 м. З Пн, З і Пд умацавана валам выш. ад 5 да 8 м і ровам. Культурны пласт да 0,9 м. Знойдзена гладкасценная кераміка.

*Г. М. Семянчук.*

**ШАМО́Т** (франц. chamotte), абпаленая да ступені спякання вогнетрывалая гліна або каалін, якія ўводзяць у фармовачную масу для змяншэння пластычнасці і ўсадкі вырабу пры яго сушцы і абпальванні. У археалогіі — любы керамічны паглынальнік. Пачатак выкарыстання Ш. на тэр. Беларусі адносіцца да бронзавага веку. У жал. веку Ш. з-за сваіх высокіх тэхналагічных якасцей атрымаў шырокае распаўсюджанне ў ганчарстве плямён практычна ўсіх археал. культур. Выходным матэрыялам Ш. звычайна былі здробненыя керамічныя пасудзіны або адходы керамічнай вытворчасці, якія дадаваліся да сырой гліны для павышэння яе вогнетрывалых якасцей пры фармоўцы вогнеўпорных вырабаў.

*Н. М. Дубіцкая.*

**ШАПАТО́ВІЧЫ,** група археал. помнікаў каля в. Шапатовічы Чачэрскага р-на.

Гарадзішча-1. За 1 км на Пд ад вёскі, ва ўрочышчы Курган, на астанцы ў поплаве правага берага р. Сож. Пляцоўка прамавугольная з закругленымі вугламі, памер 60×45 м. Па краі яе прасочваецца вал выш. 1,2—1,5 м, папсаваны акопамі і бліндажамі часоў Вял. Айч. вайны. Гарадзішча вядома з 1873, абследавалі ў 1928 А. М. Ляўданскі, у 1956 В. М. Мельнікоўская, у 1976 М. А. Ткачоў, раскопкі праводзіў у 1979 і 1982 А. І. Драбушэўскі. Культурны пласт 0,6—0,9 м. Даследавана пабудова слупавой канструкцыі (захавалася агнішча ў выглядзе скопішча абпаленай гліны) і 17 гасп. ям.



В. І. Шадыра.



Фібулы, абломак бранзалета, касцяная псалія і жалезны прабойнік з гарадзішча-1 **Шапатовічы.**

Да *мілаградскай культуры* адносяцца знаходкі фрагментаў грубаляпной керамікі, гліняных праслiц і грузікаў, псалія з ікла дзіка і інш. З *зарубінецкай культурай* звязаны знаходкі грубаляпной і глянцаванай керамікі, гліняных праслiц, сярэднелатэнскіх і познелатэнскіх фібул, фрагмента бронзавага бранзалета скіфска-сармацкага тыпу і інш. вырабаў з жалеза, каляровых металаў, косці і каменю. Значная частка зарубінецкага посуду ўпрыгожана штрыхоўкай, што дазваляе аднесці гарадзішча да помнікаў тыпу Чачэрск — Кісцяні верхнедняпроўскага варыянта зарубінецкай культуры.

Гарадзішча-2 зарубінецкай культуры. За 300 м на Пд ад гарадзішча-1. Вядома пад назвай Царкавішча. Пляцоўка авальная, памер 50×40 м, узвышаецца на 3—4 м над поплавам р. Сож. Вядома з 1873, абследавалі ў 1928 С. А. Булінскі, у 1976 Ткачоў. У агаленнях пляцоўкі сабрана ляпная кераміка. Датуецца 2 ст. да н. э.— 3 ст. н. э.

Паселішча-1 *верхнедняпроўскай культуры.* За 500 м на У ад вёскі, ва ўрочышчы Балонне. Выявіў у 1926 К. М. Палікарповіч, даследавалі ў 1965 І. І. Арцёменка, у 1976 А. Г. Калечыц. Культурны пласт 0,45 м.

Знойдзены кераміка з ямкава-грабеньчатым арнаментам, крамянёвыя скрэблы, нажы, сякеры, наканечнікі стрэл.

Датуецца 4-м тыс. да н. э.

Паселішча-2 верхнедняпроўскай культуры. За 500 м на У ад вёскі, ва ўрочышчы Востраў. Памер 200×50 м. Выявіў у 1926 Палікарповіч, даследавалі ў 1965 Арцёменка, у 1976 Калечыц. У культурным пласце 0,45 м такія ж знаходкі, як і на паселішчы-1. Датуецца 3-м тысячагоддзем да н. э.

*А. І. Драбушэўскі, А. Г. Калечыц, М. А. Ткачоў.*

**ША́ПЧЫЦЫ,** гарадзішча мілаградскай і зарубінецкай культур каля в. Шапчыцы Рагачоўскага р-на. За 1,2 км на З ад вёскі, на беразе Дняпра. Схілы гарадзішча стромкія (выш. над поплавам да 10 м), з Пд і ПдЗ умацаваны валам выш. 0,3—0,4 м і ровам глыб. 0,7 м. Верагодна, быў яшчэ адзін вал па краі пляцоўкі (рэшткі яго прасочваюцца з вонкавага боку). Пляцоўка авальная, памер 50×33 м, папсавана ямамі і акопамі. Вядома з 1873. Абследаваў у 1976 А. Р. Мітрафанаў. Культурны пласт на пляцоўцы прасочваецца слаба, каля краёў пляцоўкі — выразна. Знойдзены фрагменты ляпной керамікі ранняга жал. веку. Датуецца 6—2 ст. да н. э.

*Літ.:* 1046. *А. Р. Мітрафанаў.*

**ШАРАПАДО́БНЫХ А́МФАР КУЛЬТУ́РА,** археал. культура познанеалітычных плямён, якія ў 3-м тысячагоддзі да н. э. жылі ў цэнтр. і ўсх. Германіі, Польшчы, Чэхіі, на ПнУ Румыніі, у лесастэпавай частцы Правабярэжнай Украіны, на З Беларусі. Падзяляліся на групы і варыянты. Насельніцтва займалася сельскай гаспадаркай і паляваннем. Іх селішчы размяшчаліся на пясчаных берагах рэк. Жытлы былі наземнымі, слупавой канструк-

цыі, часам шматкамерныя з каменнымі або глінянымі агнішчамі; месцамі былі паўзямлянкі. Побач з жытламі размяшчаліся гасп. ямы. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў неглыбокіх ямах, абкладзеных каменнымі плітамі або валунамі, часам — няпоўнае трупапаленне. У магільных ямах выяўлены каменныя і касцяныя прылады працы, кераміка, упрыгожанні. Месцамі над пахаваннямі насыпалі курганы. Былі пахаванні індывідуальныя і групавыя, часам у іх знаходзяць рэшткі буйных рагатых жывёл. Сустракаюцца і асобныя рытуальныя пахаванні жывёл. Для керамікі характэрны амфары з шарападобным корпусам і вертыкальным венчыкам, разнастайныя гаршкі, кубкі, міскі, арнаментаваныя, пераважна ў верхняй частцы, адбіткамі лінейнага штампа, шнура, насечкамі, наколамі. Сярод прылад працы і зброі — крамянёвыя сякеры-кліны і долаты, касцяныя нажы і долаты, верацёнападобныя наканечнікі стрэл. Для ўпрыгожанняў характэрны бурштынавыя вырабы, фігурныя каменныя пласціны. На тэр. Беларусі носьбіты гэтай культуры пранiклі на познім этапе яе развіцця. Найб. вядомыя іх помнікі — могільнікі Краснасельскі і *Малыя Ёдкавічы*.

*Літ.:* 1048. *М. М. Чарняўскі.*

**ШАРСЦІН,** археал. помнікі каля в. Шарсцін Веткаўскага р-на.

Гарадзішча *мілаградскай культуры*. За 1 км на ПнЗ ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадзішча, на мысе, утвораным 2 ярамі. Пляцоўка прамавугольная, памер 72×80 м, вышыня над поплавам каля 10 м. Умацавана валам вышынёй 2 м, шырынёй да 4 м. Вядома з 1910, абследавалі ў 1926 К. М. Палікарповіч, у 1936 А. М. Ляўданскі і А. Дз. Каваленя, у 1956 В. М. Мельнікоўская, у 1975 С. М. Васільева. Культурны пласт 0,2 м. Знойдзена ляпная кераміка. Датуецца 7—3 ст. да н. э.

Селішча-1 *калочынскай культуры* і эпохі Кіеўскай Русі. За 400 м на ПнЗ ад вёскі, на краі 10—12-метровай надпоплаўнай тэрасы правага берага р. Сож, ва ўрочышчы Праскурнікі. Памер 200×60 м. Выявіў у 1920-х г. Палікарповіч, абследавалі ў 1936 Ляўданскі, Каваленя, у 1980 А. А. Макушнікаў. Культурны пласт 0,2—0,3 м.

Знойдзены ляпная і ганчарная кераміка, жалезны нож, гліняное праслíца, вял. колькасць жалезнага шлаку.

Селішча-2. За 500 м на Пн ад зах. ускраіны вёскі, ва ўрочышчы Барок (Бор), на краі астанца першай надпоплаўнай тэрасы правага берага р. Сож, над воз. Бабчынскае, на месцы неалітычнага паселішча. Памер 250×70 м. Выявіў у 1926 Палікарповіч, абследавалі ў 1970-х г. А. Г. Калечыц, у 1979—81, 1986—78 М. У. Бычкоў, Макушнікаў, А. І. Драбушэўскі. Культурны пласт у агаленнях 0,2—0,4 м. Драбушэўскі даследаваў 2 гасп. ямы.

Знойдзена грубая ляпная кераміка, у т. л. з расчосамі, шкляныя пацеркі, жалезны серп, гліняное праслíца, фрагмент бронзавага бранзалета.

Датуецца 1-й чвэрцю 1-га тысячагоддзя н. э.

Селішча-3 зарубінецкай, позназарубінецкай, калочынскай культур і эпохі Кіеўскай Русі. На паўд.-ўсх. ускраіне вёскі, на правым беразе р. Сож, у вусці р. Шарсцінкі і ў напрамку да в. Юркавічы. Памер 300×100 м. Выявіў у 1920 Палікарповіч, абследавалі ў 1981 Макушнікаў і Бычкоў, у 1986—87 Драбушэўскі. Культурны пласт да 0,5 м. Знойдзены ляпная і кругавая кераміка, сяміпрамянёвае скроневае кольца радзімічаў. Датуецца 1-м тысячагоддзем н. э.



Гаршчок-урна з паселішча-1 **Шарэйкі.**

Селішча-4. За 800—900 м на Пн ад вёскі, ва ўрочышчы Нівейкава, на краі астанца надпоплаўнай тэрасы правага берага р. Сож. Памер 110×80 м. Выявіў у 1920-я г. Палікарповіч, абследавалі ў 1987 Бычкоў, Драбушэўскі, У. А. Літвінаў. Культурны пласт да 1 м.

Знойдзены ляпная і ганчарная кераміка, шкляныя лімонападобныя пацеркі, асялок. Сярод ляпной керамікі гаршкі з адбіткамі вяровачнага штампа, аналагічнага посуду *роменска-боршаўскай культуры.*

Датуецца 9—13 ст.

Селішча-5. За 800—900 на Пн — ПнЗ ад вёскі, ва ўрочышчы Барок (Бор), каля Крывога Броду, на краі 5—6-метровай надпоплаўнай тэрасы астанца ў правабярэжжы р. Сож. Памер 100×50 м. Абследаваў у 1987 Драбушэўскі. Культурны пласт 0,2—0,3 м. Знойдзена ляпная кераміка. Датуецца сярэдзінай — 3-й чвэрцю 1-га тысячагоддзя н. э.

Паселішча эпохі неаліту. За 300 м на У ад вёскі, на дзюнах першай надпоплаўнай тэрасы правага берага р. Сож. Памер 200×15 м. Выявіў у 1926 Палікарповіч, абследавала ў 1978—79 Калечыц. Культурны пласт 0,1 м.

Знойдзены крамянёвыя прылады працы (скрабкі, вастрыі, нуклеусы, адшчэпы, пласціны) і фрагменты керамікі.

*Літ.:* 733, 863, 981. *А. І. Драбушэўскі, А. Г. Калечыц, А. А. Макушнікаў.*

**ШАРЭЙКІ,** група археал. помнікаў каля в. Шарэйкі Калінкавіцкага р-на.

Паселішча-1. За 500 м на Пн ад вёскі, на 2 пясчаных узвышшах паўн. берага воз. Горкі. Выявіў у 1960 і даследаваў у 1961, 1964, 1970 і 1973 У. Ф. Ісаенка. Знойдзены крамянёвыя прылады працы і кераміка эпохі неаліту. Тут выяўлены таксама могільнік ранняга жал. веку з пахавальным абрадам трупаспалення. У якасці урнаў выкарыстоўваліся раннеславянскія гаршкі. Датуецца 6—8 ст. Могільнік даследаваў у 1978 В. Б. Перхаўка.

Паселішча-2. За 3 км на У ад вёскі, на паўн. беразе воз. Крывуля. Займае астанец 1-й надпоймавай тэрасы і цягнецца на 200 м уздоўж берага. Выявіў у 1960 і даследаваў у 1961, 1969, 1970 і 1973 Ісаенка. У тоўшчы гумуснага пласта на глыб. 0,2—0,4 м ад паверхні знойдзена 37 крамянёвых прылад працы, 200 апрацаваных крамянёў, 170 фрагментаў керамікі. Адносіцца да *днепра-данецкай культуры*, асобныя знаходкі — да *шнуравой керамікі культур* бронзавага веку.

Паселішча-3. На ўзгорках уздоўж паўд. берага воз. Пясчанка. Даўж. 140 м. Выявіў у 1961 і даследаваў у 1969, 1970 Ісаенка. Культурны пласт 0,2 м. Знойдзены 170 апрацаваных крамянёў, 23 крамянёвыя прылады працы, 70 фрагментаў вастрадонных гліняных пасудзін. Адносіцца да днепра-данецкай культуры. На паўн. беразе возера выяўлены рэшткі рудні па выпрацоўцы крычнага жалеза.

*Літ.:* 460. *У. Ф. Ісаенка.*

**ШАСТА́К,** 1) беларуская і ўкр. назва манеты наміналам у *шэсць грошаў* у 16—18 ст.

2) Руская білонная манета, фракцыя (1/3) *тынфа.* Прызначалася для забеспячэння плацежаздольнасці арміі Пятра І на тэр. Беларусі, Украіны і Польшчы ў час Паўн. вайны 1700—21. Афіцыйна ўстаноўленыя проба (невядомая) і *лігатурная маса* (магчыма, 3,20 г) пры выпуску былі паменшаны — *метрычная проба* найменшая 210, маса 2,95 г. Рыначны курс абарачэння — 4 *капейкі.* Эталонам для чаканкі Ш. сталі польскія *шэсць грошаў.* На аверсе —

увянчаны лаўровым вянком бюст Пятра I управа, кругавая легенда — **ц**[а]**рь і в**[еликий] **к**[нязь] **петрь алеѯіевичъ.** На *рэверсе* — увянчаны 3 (2 малыя, 1 вялікая) каронамі двухгаловы арол, які ў правай лапе трымае скіпетр, у левай — дзяржаву (сімвал улады); кругавая легенда — **все ѧ росіи повелитель** і дата чаканкі толькі кірыліцай — ѧψз. Выпускалі Кадашаўскі і Красны манетныя двары ў 1707, магчыма, і ў 1708 штэмпелямі 1707 (адзнакі двароў гл. ў арт. *Манетныя двары Расійскай дзяржавы).* На рэверсе кадашаўскіх Ш., у адрозненне ад краснадворскіх, над скіпетрам і дзяржавай, што ў лапах арла, змешчаны ініцыялы *мінцмайстра* І. Л. Ланга — I-L.

*Літ.:* 1574, 1620, 1720, 1724.

*В. Н. Рабцэвіч.*

**ШАСТАКО́ВА,** курганны могільнік дрыгавічоў каля в. Шастакова Камянецкага р-на. За 2,5 км на ПнУ ад вёскі, каля б. хутара, у полі. 8 кампактна размешчаных насыпаў выш. 0,3—0,8 м, дыям. 3—6 м. Іх аснова абкладзена камянямі, самы вял. насып абкладзены камянямі цалкам. Адкрыў у 1936 К. Салевіч, даследаваў 4 курганы ў 1959 І. В. Біруля, абследавала у 1980 і 1985 Т. М. Каробушкіна. Пад дзірваном выяўлена шчыльная вымастка з камянёў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў труне галавой на З. Знойдзены фрагменты ганчарнага посуду, бронзавая шпілька, вуголле, попельна-вугальныя плямы. Датуецца 11—13 ст.

**ШАСТАПЁР,** ручная зброя блізкага бою тыпу *булавы.* Складалася з драўлянага ці акаванага бляхай атронка і насаджанай на яго металічнай галоўкі ў выглядзе грушы з 6—8 пёрамі. Галоўку часта ўпрыгожвалі чаканкай, каляровымі металамі ці каштоўнымі камянямі. Ш. трапіў у Еўропу з У у эпоху позняга сярэднявечча. На Беларусі яго выкарыстоўвалі ў 16—17 ст., пераважна гэта былі прывазныя Ш. (венгерскія, турэцкія і інш.). Ш. сімвалізаваў вайсковую ўладу: яго насілі паручнікі, харунжыя, ротмістры і палкоўнікі.

*Літ.:* 1428, 1457.

*Г. М. Сагановіч.*

**ША́ЎНЕВА,** гарадзішча каля в. Шаўнева Горацкага р-на. За 0,3 км на У ад вёскі, на левым беразе р. Каменка. Пляцоўка памерам 65×45 м, з У умацавана валам вышынёй да 3 м, даўжынёй 15 м. Выявіў у пач. 20 ст. Е. Р. Раманаў, абследаваў у 1978 В. І. Шадыра, даследаваў у 1991 А. А. Мяцельскі (раскапана 140 м²). Культурны пласт 0,4—1,2 м. Выяўлены рэшткі гасп. пабудовы слупавой канструкцыі памерам 2,5×2,5 м, заглыбленай у мацярык на 0,5 м.

Знойдзены жалезныя ключы, замкі, наканечнікі стрэл, шпора, шкляныя і бронзавыя бранзалеты, шыферныя прасліцы, касцяныя грабяні, бразготка з лінейнай шчылінай, ганчарная кераміка, фрагмент шкляной пасудзіны з малюнкам, зробленым каляровымі фарбамі. У канцы 19 ст. на месцы гарадзішча знойдзены скарб сярэбраных рэчаў: завушніцы, спражкі, бранзалеты, шыйныя грыўні. Частка скарба перададзена ў Гістар. музей у Маскве.

Гарадзішча датуецца 2-й паловай 12—13 ст.

*А. А. Мяцельскі.*

**ША́ХМАТЫ,** настольная гульня. Паходзіць з Індыі, згадваецца ў старажытнаіндыйскім эпасе «Махабхарата» (складзены каля 6—5 ст. да н. э.). Час зараджэння гульні ў Ш. невядомы. Узнікла як ваенная гульня — пастраенне шахматных фігур



**Шахматы.** Каменная ладдзя. 12—13 ст. Гродна.

сімвалізуе шарэнгі стараж. войска. Значны ўклад у развіццё Ш. унеслі народы Сярэдняй Азіі і Ірана. У 8—9 ст. гульня запазычана арабамі. На Русь Ш. трапілі, хутчэй за ўсё, волжскім шляхам «з Балгар». Па археал. даных, у стараж.-рус. гарадах вядомы з 11 ст. У пісьмовых крыніцах упамінаюцца з 1262. У час раскопак усх.-слав. гарадоў выяўлена больш за 250 фігур (у Ноўгарадзе больш за 150), выкананых з рога, дрэва або каменю ў рэалістычнай ці абстрактнай манеры (пад уплывам іслама, які забараняў выявы жывых істот). На Беларусі вядомы знаходкі 31 фігуры 11—пач. 17 ст. з 16 гарадоў: Мінска, Друцка, Слуцка (па 4), Полацка і Копысі (па 3), Віцебска і Ваўкавыска (па 2), Турава, Бярэсця, Гродна, Навагрудка, Лукомля, Мсціслава, Ліды, Заслаўя і Рагачова (па 1). Знойдзены таксама шахматны конь 11 ст. ў *Гарадзішчы* (Мінскі р-н) і ферзь 17 ст. на *Віцебскім Верхнім замку.* Пераважаюць вырабы з косці, па манеры выканання — абстрактныя, па прызначэнні — кароль, ладдзя, слон, конь і пешкі.

Фігуркі караля з Полацка (2), Мінска і Друцка выкананы з дрэва ў абстрактнай манеры: цыліндрыкі выш. каля 2 см маюць кальцавы перахват у верхняй частцы і конусападобнае завяршэнне. Фігуркі караля з Бярэсця і Слуцка рэалістычныя. Берасцейская знаходка датуецца 13 ст. Гэта пагрудная выява воіна (выш. 4,6 см, шыр. асновы 2,5 см) з мячом або сімвалам улады (скіпетр ці булава) у правай руцэ, шчытом у левай, на галаве воіна — пляскатая шапачка, з-пад якой звісаюць валасы, на твары — даўгія вусы і кароткая барада. Захоўваецца ў археал. комплексе «Бярэсце». Слуцкая фігурка масіўная (вага 65 г, выш. 6,8 см, памеры асновы 3,2—3,3×3,5 см), выразана з рога, датуецца 12 ст. Гэта выява чалавека, які сядзіць на троне, ударна склаўшы рукі на каленях. З-пад галаўнога ўбору відаць валасы, стрыжаныя «пад гаршчок», на твары — кароткія вусы і барада, на нагах — высокія боты. Экспануецца ў *Слуцкім краязнаўчым музеі.* На думку І. М. Ліндэра, кароль у стараж.-рус. Ш. меў назву «цар». Фігура ферзя (выш. 4,7 см, памеры асновы 2,2×2,5 см) з Лукомля ўяўляе сабой чалавека, які сядзіць на кукішках, скрыжаваўшы рукі. Твар без вусоў і барады, з-пад шапкі звісаюць даўгія валасы. Вайсковая атрыбутыка і сімвалы ўлады адсутнічаюць. Ферзь 17 ст. з Віцебскага Верхняга замка ўяўляе сабой конус з выцягнутым верхам (выш. 5,57 см, дыям. асновы 2,55 см). Выразаны ўнізе арнамент запоўнены чырвонай фарбай. Абстрактныя выявы ладдзі знойдзены ў Віцебску (2) і Копысі, рэалістычныя — у Гродне і Ваўкавыску. Першыя ўяўляюць сабой падоўжанае плоскае тулава з 2 выступамі па баках і невял. выступам пасярэдзіне, устаноўленае на цыліндрычнай падстаўцы з дыскападобнай асновай (памер 2,6×2,9 см). Выш. фігуркі 2,6—2,8 см. Датуюцца ладдзі 13— пач. 14 ст. Ладдзя з Гродна зроблена са светла-жоўтага каменя з зялёнымі пражылкамі як натуральная выява лодкі на падстаўцы (выш. 5,5 см, шыр. ў аснове 1,5 см), з круглымі адтулінамі пад вёслы ў бартах і 4 фігуркамі воінаў (2 каля бартоў і па 1 на носе і карме). Барты ладдзі ўпрыгожаны трыма шчытамі «рускай формы». Ладдзя з Ваўкавыска падобная да гродзенскай, але выразана з косці. Шахматныя сланы знойдзены ў Друцку, Полацку і Слуцку і прадстаўлены толькі абстрактнымі выявамі. Гэта ўсечаныя конусы (выш. каля 2 см, памеры асновы 1,7×1,9 см) з 2 авальнымі ці клінападобнымі выступамі па баках у верхняй частцы. Фігуркі каня, вядомыя па раскопках Турава, Навагрудка і Гарадзішча (Мінскі р-н), адрозніваюцца ад слана тым, што маюць у верхняй частцы толькі 1 выступ. Пешкі абстрактнай выявы знойдзены ў Друцку, Копысі, Мсціславе, Заслаўі і Слуцку. Гэта конус выш. каля 5 см і дыям. асновы 2 см. Пешка 12 ст. з Ваўкавыска выканана ў рэалістычнай манеры — барабаншчык з «вашчагай» (прылада для ўдару) у правай руцэ і барабанам на почапцы праз плячо, апрануты ў кашулю, на галаве — пляскатая шапка. Выш. фігуркі 2,5 см. Рэалістычна выкананыя Ш. з гарадоў Беларусі (буйнейшая з калекцый гарадоў усх.-слав. краін) адпавядаюць высокамастацкім зах.-еўрап. узорам. Аднак прамых аналагаў зах.-еўрап. Ш. няма. Магчыма, Ш. выраблялі на месцы пад уплывам зах.-еўрап. майстроў. Каб адрозніць «свае» фігуры ад «чужых», іх пакрывалі паўцыркульнымі кружочкамі (кароль, Бярэсце), у некаторых выпадках пакідалі чыстымі (кароль, Слуцк). Драўляныя Ш. (ладдзя і пешка з кру-

шыны і глогу, Слуцк) таніравалі ў чорны колер адварам шышак вольхі. Шахматныя дошкі на Беларусі не знойдзены. Вядомы толькі па раскопках рус. Поўначы (Мангазея, 17 ст.).

*Літ.:* 165, 273, 556, 678, 679, 680, 834, 1336. *Л. У. Калядзінскі.*

**ШАХТЫ КРЭМЕНЕЗДАБЫЎНЫЯ,** заглыбленыя ў зямлю закрытыя выпрацоўкі, у якіх у познім неаліце і ў бронзавым веку (3-е — 1-я пал. 1-га тысячагоддзя да н. э.) здабывалі крамянёвую сыравіну. Выпрацоўкі ў мелавых адорвенях пераважна з крамянёвымі праслойкамі мелі калодзежападобную форму, дыям. шахтавага ствала да 1,5 м, глыб. да 6—8 м. Выемку мелавой пароды і здабычу сыравіны рабілі наборам гарняцкіх інструментаў, зробленых з рагоў высакароднага аленя. У размешчаных побач з выпрацоўкамі майстэрнях выраблялі пераважна крамянёвыя сякеры, што распаўсюджваліся ў бліжэйшым наваколлі і на аддаленай тэрыторыі. Ш. к. ўзніклі з-за попыту на высакаякасную сыравіну, неабходную для вытворчасці сякер, патрэбных у лядным (падсочна-агнявым) земляробстве. Такія помнікі былі выяўлены і даследаваны ў Ваўкавыскім р-не (гл. *Краснасельскі археалагічны комплекс, Карпаўскія крэменездабыўныя шахты).* Іх узнікненне звязана са з'яўленнем насельніцтва *шарападобных амфар культуры* і *шнуравой керамікі культур.* Падобныя помнікі існавалі каля г. п. Рось Ваўкавыскага р-на і на Пн ад Гродна. У пачатку жал. веку (каля сярэдзіны 1-га тысячагоддзя да н. э.) здабыча крэменю ў шахтах заняпала.

*Літ.:* 284, 1289. *М. М. Чарняўскі.*

**ШАШКІ,** фігуркі ў выглядзе плоскіх круглых кружочкаў, прызначаныя для аднайменнай гульні. На тэр. б. СССР вядомы з 3 ст. н. э. На Русі з'явіліся ў 10 ст. са скандынаўскіх краін. Асноўнай сыравінай для іх вытворчасці служылі сценкі дыяфіза трубчастых касцей і рога аленя; выраблялі таксама са шкла, каменю, бурштыну, гліны. Да 17—18 ст. уяўлялі сабой пляскаты кружок дыям. 3 см, выш. 0,65 см з вертыкальнай адтулінай у цэнтры. Знешнюю паверхню часта ўпрыгожвалі канцэнтрычнымі кругамі, у 13—15 ст.— арнаментам «у вочкі». Пазней іх дыям. павялічыўся да 3,4—3,7 см, выш. паменшылася да 0,55 см або засталася ранейшай. Фігуркі сталі больш плоскія. Знешнюю паверхню ўпрыгожвалі нарэзкамі ў выглядзе 5—6 канцэнтрычных кругоў рознай глыбіні. У цэнтры было невял. паглыбленне. Пры раскопках 1964 на Ніжнім замку ў Віцебску знойдзена касцяная Ш. 10 ст., у 1983—84— касцяныя Ш. 13—17 ст. Касцяная Ш. знойдзена таксама ў Мсціславе.

*Літ.:* 165, 1341. *Т. С. Бубенька.*

**ШКАРПЭТКІ,** кароткія панчохі, вырабленыя з грубай тканіны, вязаныя або плеценыя з нітак. Аблягаюць ступню і ніжнюю частку нагі, нагадваюць панчохі без пяткі. У старажытнасці Ш. плялі ў тэхніцы іголкавага пляцення. У Полацку знойдзены Ш. пачатку 13 ст., плеценыя з шарсцяных нітак, аздобленыя паласамі карычневага колеру шыр. 2—3 см. Старажытныя Ш. з тканіны маглі насіць як хатні абутак.

*Літ.:* 240, 756, 1347. *Г. В. Штыхаў.*

**ШКЛОЎСКІ ЗАМАК.** Існаваў у 16—17 ст. Пабудаваны на востраве сярод штучнага става, зробленага на р. Шклоўка (Язона). Размяшчаўся на З ад *шклоўскіх гарадскіх умацаванняў* і быў звязаны з імі драўляным мостам на «ізбіцах», які падводзіў да замкавай брамы «з узводам» — пад'ёмным мостам «на чопах жалезных з рэфамі жалезнымі». Па перыметры замкавага двара стаялі драўляныя ўмацаванні: ад ракі з боку «поля» — гародні, з боку горада — вастракол. У падарожных запісках кн. Багуслава Радзівіла ў Ш. з. акрамя брамы згадваюцца 2 інш. вежы. Паводле інвентара 1661, тут мелася яшчэ адна высокая драўляная вежа, якая стаяла ў цэнтры замкавага двара і была прыстасавана для артабстрэлу наваколля. У цэйхгаузе замка захоўваліся 12 гармат (з іх 3 пашкоджаныя), адна вялікая і 20 малых марцір, 183 гакаўніцы, 44 гранаты featured рознага калібру, ядры, запас пораху і інш. У гіст. крыніцах 18 ст. Ш. з. не ўпамінаецца. *М. А. Ткачоў.*



Шашкі 13—17 ст. з раскопак Ніжняга замка ў Віцебску.



Шклоўскі ідал.

**ШКЛОЎСКІ ІДАЛ,** скульптурная выява паганскага бажаства, знойдзеная ў 1963 каля г. Шклова, на беразе р. Серабранка. Высечаны з пясчаніку, выш. 1,2 м, вага каля 250 кг. Тулава цыліндрычнае, ніжняя частка апрацавана як пастамент, твар мае індывідуальныя рысы. Датуецца 10 ст.

*Літ.:* 1333, 1348. *Г. В. Штыхаў.*

**ШКЛОЎСКІЯ ГАРАДСКІЯ ЎМАЦАВАННІ.** Існавалі ў апошняй чвэрці 16—18 ст. Пасля пераносу ўмацаванага цэнтра з гарадзішча *Стары Шклоў* на бераг Дняпра і спынення жыцця на гарадзішчы далейшае развіццё «места Шклова» адбывалася на ажыўленых водным і гандл. шляхах з Пд на Пн. Шклоў быў абаронены магутнымі ўмацаваннямі, пры будаўніцтве якіх удала выкарыстаны штучныя і натуральныя водныя рубяжы. З У горад быў надзейна прыкрыты Дняпром, які тут дасягае шырыні больш за 150 м. З Пд і З, дзе працякала р. Шклоўка, дзякуючы дамбе з плацінай утварылася вял. возера. Яно прыкрывала горад і *Шклоўскі замак.* Шклоў быў абкружаны магутным земляным валам, на якім стаяў «паркан з дрэва, пабудаваны ізбіцамі, з вежамі і брамамі». Гіст. дакументы за 1647 называюць 4 брамы горада: Копыскую, Магілёўскую, Галоўчынскую, Астроўскую. З паўн. боку Шклоў не меў натуральных умацаванняў, таму акрамя землянога вала тут быў выкапаны абарончы роў.

Пасля здачы горада 31.9.1654 рус. войскам Ш. г. ў. былі агледжаны, padноўлены і апісаны царскімі ваяводамі: «С приходной стороны, с севера выкопали новый ров и поставили надолбы, которые шли от Днепра до Заугольной башни». Агульная даўж. гар. умацаванняў складала больш за 2240 м. У лініі фартыфікацыі называюцца і тайнікі. Паводле паўторнага апісання Ш. г. ў. у 1657 ваяводам І. М. Талачанавым, горад засцерагаўся 26 драўлянымі вежамі розных памераў і канструкцый. З іх уласна вежаў было 14, у т. л. 3 брамы. Назвы гар. брам адрозніваюцца ад назваў у 1647 (акрамя Магілёўскай): брама Копыская называлася «Днепровскими проезжими воротами»,

Астроўская — «башня Тесная», Галоўчынская — «Песочной». Выкарыстоўваліся толькі 2 брамы: Дняпроўская (Копыская) і Пясочная (Галоўчынская). Праезд праз Магілёўскую браму наглуха засыпалі зямлёй. Найбольшай магутнасцю вызначаўся ўсх. бок абароны, які цягнуўся ад вусця Шклоўкі ўверх уздоўж правага берага Дняпра. Тут размяшчалася 8 вял. вежаў і 8 малых — «выводов». Вежа «Угорская Рябковская» стаяла на мысе ў сутоках рэк, была 4-ярусная, з 3 «мостами», рубленая ў «две стены». Яна мела 4-вугольную аснову і з 2-га яруса пераходзіла ў васьміграннік, зроблены «в одну стену». Далей, уверх па Дняпры, прасла сцяны (117,3 м) падводзіла да «мярніцы» (відаць, важніцы). За ёй наступнае прасла (228,3 м) упіралася ў васьмівугольную вежу «села Дивного» з 2 мастамі. Даўж. аднаго боку вежы складала каля 9,6 м, страха была васьмісхільная. Ад гэтай вежы «звено города» (62,2 м) падыходзіла да Дняпроўскай (Копыскай) брамы, якая мела чатырохсхільную страху, 4 масты (5 ярусаў), знізу была чатырохвугольная, з 2-га яруса — васьмівугольная. Даўж. сцяны дасягала 13,7 м у аснове. На 2-м паверсе брамы стаяла палкавая гармата. Можна меркаваць, што агульная выш. брамы складала не менш за 25 м. За Дняпроўскай брамай, уверх па рацэ, прасла сцяны (каля 64 м) змыкалася з глухой чатырохвугольнай вежай, якая мела даўжыню грані «мерою 3 сажня без полуаршина» (да 6 м). Вежа была «...ниская, мосту ни одного нет», вынесена «за город», накрытая чатырохсхільнай страхой. На адлегласці каля 143 м ад яе над Дняпром размяшчалася шасцівугольная чатырох'ярусная «Падлазная» вежа. Яна мела «воротечка подлазные» для скрытага выхаду на бераг ракі. Даўж. аднаго боку вежы была 6,4 м. Далей на ўчастку абароны (516,4 м) з прамежкамі 53,4—76,8—51,2 м размяшчаліся 8 невял. чатырохвугольных вежаў — «выводов». Адна памерам 5×5 м, астатнія пераважна 4,26×4,26 м. Як правіла, усе яны былі трох'ярусныя, выступалі за лінію сцен, «за город же, к Днепру», і служылі для фланкіравання апошніх. На вежах стаялі гарматы. Два «вывода» былі здвоены і «с ряду рублены тако ж, яко и городовая стена». Вежы мелі падэшвенны бой, а з боку ракі іх засцерагаў «прислон стоячий». На адлегласці каля 147 м ад іх размяшчалася адна «Падлазная» вежа, праз 137,5 м за ёй — другая. Абедзве вежы былі чатырохвугольныя (у аснове 6,4×6,4 м), трох'ярусныя, з 2 мастамі, мелі падлазныя вароты да Дняпра. На адной з іх стаяла «гроховница». «Звено города» (каля 128 м) завяршала прыдняпроўскую лінію абароны і ў месцы павароту вала на З злучалася з вуглавой Тайнічнай вежай (7,1×7,1 м у аснове). Па тайніку спускаліся па ваду да Дняпра. Зах. ўчастак Ш. г. у. (264,5 м) уключаў акрамя Тайнічнай яшчэ 3 вежы — Цесную, Вывадную і Казлоўскую. Цесная вежа была аддалена ад Тайнічнай на 7,1 м і, верагодна, з-за такой блізкасці атрымала сваю назву. Гэта «цесната», відаць, была створана прадумана, каб агнём з вежы абараняць жыццёва важны ўчастак, які даваў выхад да вады. Да таго ж раней вежа была праезнай, але ў 1657 уваход наглуха засыпалі зямлёй. Тайнічная вежа таксама дапамагала ў абароне Цеснай, фланкіруючы подступы да яе. Цесная вежа мела квадратную ў плане форму (7,1×7,1 м), а з 2-га паверха пераходзіла ў васьміграннік. На ёй стаялі 3 жал. пішчалі — «гроховницы». Вывадная вежа знаходзілася за 103 м ад Цеснай, уяўляла сабой чатырохвугольнік у аснове (6,4×6,4 м), мела 3 ярусы бою, а таксама «бой земляной, спущенный ниже городовой стены». Вежу моцна высунулі за лінію сцен («...и та башня выведена за город»), што, верагодна, з'явілася падставай для яе назвы. У ёй стаялі пішчаль і «гроховница». Апошні ўчастак Ш. г. у. (108,7 м) падводзіў да вял. вуглавой Казлоўскай вежы, зрубленай знізу да верху ў выглядзе трох'яруснага васьмігранніка. Даўж. аднаго яе боку складала 12,8 м. Вежа месцілася на бастыёне — гарматным «выводе» з 3 гарматамі. Ад яе ў бок Магілёўскай брамы ішоў тайнік з двайнымі дзвярамі. «На верхнем мосту» вежы знаходзіліся «пищаль и гроховница». Ад Казлоўскай вежы лінія Ш. г. у. паварочвала на Пд, цягнулася уздоўж «Высокага поля» і вял. сажалкі на Шклоўцы. Адлегласць паміж Казлоўскай вежай і Магілёўскай (Крывой) брамай займала гар. сцяна (149 м). Магілёўская брама была чатырохвугольная ў плане (10,6×10,6 м), двух'ярусная, з 2 варотамі. З узбраення тут мелася «пушечка полковая медная». За 11,7 м ад Магілёўскай брамы ў лініі гар. сцяны стаяў «двор ксенжеский», за 85,3 м — вежа Вывадная. Дакументы паведамляюць пра канструкцыю абарончай сцяны на гэтым участку: «а рублен тот город от ксенженского двора не по городовому в одну стену, а в стене бывали избицы ксенженские» (верагодна, гародні). Вывадная вежа была чатырохвугольная ў плане (7,4×7,4 м), значна выступала за перыметр сцен («выведена за город к пруду»), мела «под собою земляной бой». Далей цягнуліся ўчастак сцяны (каля 94 м), «вывод» (9,5×9,5 м) з меднай гарадавой гарматай на ім і зноў частка сцяны (85 м), якая прымыкала да магутнай Пясочнай вежы-брамы. Гэта, відаць, была Галоўчынская брама. Вежа мела выгляд шасцігранніка з даўж. кожнага краю каля 12,8 м і з вышыні ніжняга «моста» пераходзіла ў васьмярык. Усяго ў ёй было 4 «моста», што рабіла яе падобнай да Дняпроўскай брамы. Вакол Пясочнай вежы была зроблена кругавая баявая галерэя для гармат на ўзроўні 2-га яруса. Вежа мела васьмісхільнае пакрыццё. Траплялі ў яе, відаць, па мосце цераз сажалку. За Пясочнай вежай участак сцяны (170,5 м) падыходзіў да замка. Замкавыя сцены былі аддзелены ад сцен горада ровам. Далей зноў цягнуліся гар. ўмацаванні — каля 64 м сцяны і «вывод» з наглуха закрытым тайнікам пад ім. «Вывод» уяўляў сабой участак сцяны ці бастыёна, які размяшчаўся паблізу Угорскай (Рабкоўскай) вежы і, верагодна, блізка да вады. Ён быў зроблены «по городовому» (у 2 сцяны) і злучаўся з вежай «у мельницы по конец пруда». Акрамя праезных вежаў, а таксама глухіх і невял. вежаў — «выводов», Ш. г. ў. мелі і «выводы пушечные» — бастыёны, якія прыкрывалі вял. вежы Тайнічную, Казлоўскую і Угорскую каля іх падножжа. Паводле вопісу 1657, на сценах горада стаялі «кобылины на вертлюгах» (цяжкія мушкеты, што стралялі буйным шротам і сечаным жалезам), 20 палкавых гармат і 20 грохаўніц, 93 пішчалі зацінныя, мушкеты і ручніцы з запасам ядраў, куль, волава і свінцу.

Напярэдадні рус.-польскай вайны 1654—67 Шклоў быў даволі вял. горадам з шэрагам прадмесцяў (Аршанскае, Шклоўскае, Рышкоўскае, Заперакопскае і Задняпроўскае). У 1650 у горадзе налічвалася 8540 жыхароў, 1220 дамоў. Як і ў інш. тагачасных бел. гарадах з магдэбургскім правам, усё дарослае мужчынскае насельніцтва Шклова было ўзброена і аб'яднана ў сотні і дзесяткі. Паводле інвентара 1643, у горадзе было 11 соцень, у т. л. 4 у Задняпроўскім прадмесці. У час рус.-польскай вайны Шклоў неаднойчы знаходзіўся ў гушчы ваенных падзей. Пасля поспеху войск Рэчы Паспалітай зімой 1654—55 ён быў адным з нямногіх падняпроўскіх гарадоў Беларусі, што засталіся ў руках рускіх, і ператварыўся ў буйную ваен. базу. Сюды перавозілі артылерыю і боепрыпасы з Копысі. У пач. студзеня 1654 ваяводы паведамілі цару, што «...Шкловцы, государь, по распросным речам... к литовским людям от тебя писали же, что они хотят Шклов город здать». Аднак у сувязі з поспехамі рус. войск справа да здачы тады не дайшла. У пач. жніўня 1655 пад Шкловам адбылася бітва паміж войскамі гетмана Януша Радзівіла і рус. ваяводы Я. К. Чаркаскага, якую гетман прайграў і адступіў да Барысава. 20 жніўня пасля падыходу да Шклова войск ваяводы А. М. Трубяцкога пачалася аблога горада. 26 жніўня ратным людзям было загадана браць горад «зажогом и приступом и шкловские... сидельцы выдержали над собою... ратных людей промысел и из крепости не отступили». У данясенні ад 4 верасня Трубяцкой пісаў цару, відаць, пра яшчэ адзін штурм 27 жніўня: «августа 27 числа приступили они к Шклову. И в те поры шкловцы в осаде отсиделись. После тово приступу велели делать шанцы к городу близко того городу и в город по хоромам из наряду и из ружья велели стрелять беспрестанно и тесноту городским людям учинили большую и к приступу совсем изготовились». Абстрэл горада працягваўся. Паколькі ўсе жыхары прадмесцяў перайшлі пад ахову Ш. г. у., шматдзённы абстрэл Шклова і нават прыступ каштавалі ім усяго 8 чал. забітых. Пасля бурных дэбатаў гар. магістрат прыняў рашэнне Шклоў здаць. 31 жніўня «шкловцы не дожидая другова приступу, государю добили челом и город здали и бояре и воевода в город с ратными людьми вошли». Летам 1655 тут знаходзілася царская стаўка. У кастрычніку 1660 войскі Сапегі, Палубенскага і Чарнецкага не без згоды гараджан лёгка авалодалі Шкловам, пакінуўшы ў горадзе 200 драгунаў на чале з капітанам. Адна з прычын хуткага захопу Шклова заключалася, відаць, у вывазе рус. войскамі амаль усёй артылерыі. 20.6.1660 тут налічвалася ўсяго «9 пищалей средних, 5 пищалей полковых в станках, пищаль небольшая на вертлуге». З прыходам войска Сапегі артылерыйскі парк павялічыўся. Князь П. А. Далгарукі двойчы пасылаў лісты шклоўскім войту, бурмістрам.

райцам, лаўнікам і мяшчанам, «чтоб они оставя ляцкие прелести, ...город Шклов нам сдали безо всякого кровопролития». У выпадку адмовы ён абяцаў, што за гэта «учинится им какое кровопролитие, и то им будет самим от себя». 11.11. 1660 да Шклова падышло войска ваявод П. А. Далгарукага і М. Рцішчава. Адзін з іх пісаў цару: «...учиня шанцы, велел стрелять из пушек и всякие промыслы чинить опричь приступу, призывая сдаваться». Аднак «шкловские осадные де сидельцы почали слободы жечь и вышли на вылазку па сю сторону реки Днепра многие люди и руские изменники и с твоими ратными людьми был бой с 2-го часа дня 6 час... и твои ратные люди многих шкловцев на той вылазке побили и переранили и в город прогнали и в слободах многих дворов выжечь не дали и в шкловской де слободе почали строиться обозами твои ратные люди и делать шанцы». Пасля сутыкнення на левым беразе Дняпра, насупраць Шклова, рус. войск з войскамі Рэчы Паспалітай на чале з Ліпніцкім і Баброўніцкім апошнія адступілі назад у горад. Паколькі рус. ваяводам стала вядома, што шклоўцы «жилецкие люди, осаду крепят и хотят сидеть в осаде накрепко», яны адышлі да Магілёва. Стойкасць абаронцаў Шклова прывяла да прыняцця ў 1661 рашэння каралём і сеймам Рэчы Паспалітай даць «...мяшчанам шклоўскім... генеральную амністыю» і на 4 гады вызваліць іх ад падаткаў, акрамя падатку салянога, чопавага і мыта старога. У 1666 у выніку напружанага палітычнага становішча ў Рэчы Паспалітай, выкліканага паўстаннем Е. Любамірскага супраць караля, Расія спыніла мірныя перагаворы і зноў пачала ваенныя дзеянні. Летам рус. войскі пад камандаваннем Я. К. Чаркаскага, І. С. Празароўскага, І. А. Варатынскага занялі Шклоў і Копысь, спрабавалі ўзяць Магілёў, але былі адбіты. Па загаду цара шклоўскую шляхту саслалі ў Казань. Вынікі вайны, якая скончылася Андрусаўскім перамір'ем 1667, для Шклова былі сумныя. Паводле гіст. крыніц, з 1220 дамоў у 1650 уцалела да 1661 толькі 490, а насельніцтва зменшылася з 8540 да 4375 чалавек. Магілёўская хроніка сведчыць, што ў выніку пажару ў 1690 у Шклове быў знішчаны «амаль увесь замак і вялікая вежа», гандл. крамы, фарны касцёл. Пазней Ш. г. ў. аднавілі, і горад у канцы 17 ст. лічыўся моцнай парубежнай крэпасцю, губернатарам якой быў ураджэнец Гданьска І. Модлак. У 1769 у час пажару ў Шклове згарэла 300 дамоў. Пасля гэтага была праведзена грунтоўная перапланіроўка горада, якая, відаць, закранула і лінію Ш. г. у. Паводле дакументаў 18 ст., яны ўключалі вал, 5 драўляных вежаў і 7 рэдутаў. Агульная даўжыня гар. фартыфікацыйнай лініі складала каля 2750 м. Рэшткі Ш. г. у. існавалі да канца 18 ст., часткова захаваліся і мелі значэнне яшчэ ў пач. 20 ст. У наш час сляды Ш. г. у. у выглядзе разбураных бастыёнаў бачны ў прыдняпроўскай частцы горада. *М. А. Ткачоў.*

**ШЛЕМ,** 1) старажытны засцерагальны галаўны ўбор воінаў, які ахоўваў галаву ад стрэл, куль, удараў халоднай зброяй і інш. пашкоджанняў. Напачатку Ш. выраблялі з дрэва, косці, скуры, пазней — з бронзы, медзі, жалеза, сталі. У паханнях правадыроў і цароў знаходзяць Ш. з серабра і золата. На Беларусі асн. тыпамі ў 10—17 ст. былі шышак, прылбіца, капалын, штурмак, *місюрка*. Ш. мелі сфераканічную, канічную і паўсферычную формы, былі адкрытыя і з засцерагальнымі элементамі (рухомай лічынай-забралам, навушамі, напатылічнікам, *бармiцай*). Жалезныя Ш. захоўваліся ў войску да сярэдзіны 19 ст. У пач. 20 ст. на змену Ш. прыйшла каска. 2) Мяккі галаўны ўбор з тканіны (фрунзеўка, потым будзёнаўка) асабовага складу Чырвонай Арміі ў 1919—41. 3) Спец. галаўны ўбор шэрага родаў сучасных войск (пехацінцаў, танкістаў, лётчыкаў, дэсантнікаў, маракоў-падводнікаў і на катэрах) са спецматэрыялаў і шумаізалюючай падкладкай. 4) Элемент індывідуальнага рыштунку лётчыкаў, касманаўтаў і вадалазаў. *М. А. Ткачоў.*

**ШЛІФАВА́ННЕ,** апрацоўка паверхні каменных, касцяных, рагавых і іншых вырабаў абразіўнымі матэрыяламі, каб зрабіць яе гладкай і пэўнага памеру.

Ужо ў познім палеаліце вядома шліфоўка касцяных іголак, праколак, наканечнікаў коп'яў; зрэдку сустракаюцца сляды прышліфоўкі і на каменных рэчах. У мезаліце, неаліце і бронзавым веку Ш. касцяных, рагавых прылад працы, зброі і ўпрыгожанняў вялося значна шырэй — шліфавалі наканечнікі стрэл, коп'яў і гарпуноў, іголкі, праколкі, сякеры, цёслы, касцяныя ўпрыгожанні і г. д. Ш. выкарыстоўвалі пры вырабе бурштынавых упрыгожанняў, твораў дробнай пластыкі — скульптурных выяў звяроў і птушак. У познім неаліце на тэр. Беларусі пачалі ўжываць прышліфоўку лёзаў рубячых каменных прылад. У бронзавым веку каменныя сякеры, долаты, цёслы, матыкі, булавы зашліфоўвалі па ўсёй паверхні. У жал. веку і пазней, калі каменныя і касцяныя вырабы былі выцеснены жалезнымі, Ш. выкарыстоўвалі радзей. Ш. праводзілі звычайна на абразіўных каменных плітах, часам з падсыпкай буйназярністага пяску. На Беларусі шліфаваныя каменныя вырабы сустракаюцца паўсюдна; шліфавальныя пліты найб. вядомыя на познанеалітычных і раннябронзавых стаянках Крывінскага тарфяніку на Віцебшчыне.

*Літ.*: 1070, 1074. *М. М. Чарняўскі.*

**ШЛІХТАВА́ЛЬНАЯ ПЛІ́ТКА,** прылада для апрацоўкі паверхні вырабаў з каменю, дрэва, металу. Асн. яе функцыі — наданне прыладам працы пэўнай формы, гладкасці шляхам трэння. Выраблялі Ш. п. з пясчаніку ці буйназярністых крышталічных парод, якія складаюцца пераважна з кварцавых зярнят, звязаных глiністым, вапнавым або кварцавым рэчывам.

Рыхлая паверхня пясчанікавых пліт дазваляе весці шліхтаванне без падсыпкі пяску, але з рэгулярнай прамывкай вадой. Шчыльныя крышталічныя пароды пры шліхтаванні патрабавалі падсыпкі пяску. Выкарыстанне Ш. п. пачалося ў эпоху неаліту. Першымі Ш. п. былі натуральныя каменныя абломкі, якія пазней набылі форму і памеры сучаных брускоў.

*Літ.*: 1070. *У. П. Ксяндзоў.*

**ШЛЯХ З «ВАРА́ГАЎ У ГРЭ́КІ»,** водны шлях, які звязваў Балтыйскае мора з Чорным. Упершыню ўпамінаецца ў недатаванай частцы «Аповесці мінулых гадоў», дзе гаворыцца пра «путь из Варяг в Греки по Днепру, и верх Днепра волок до Ловоти и по Ловоти, внити в Ылмерь озеро великое, из него же озеро потечеть Волхов и втечеть в озеро великое Нево, и того озера внидеть устье и море Варяжское. И по тому морю ити до Рима, а от Рима прити по тому же морю ко Царюгороду, а от Царягорода прити в Понт море, в не же втечет Днепр река». У гісторыка-археалаг. літаратуры існуюць розныя меркаванні адносна часу ўзнікнення, маршруту і яго гандлёвага значэння. На думку С. В. Бернштэйн-Когана, шлях ніколі не быў адзінай і суцэльнай магістраллю, а распадаўся на часткі, адна з якіх праходзіла праз Няву, Волхаў, Ловаць, Зах. Дзвіну да Дняпра і не адыгрывала значнай ролі ў транзітным гандлі Скандынавіі з Візантыяй у 9—10 ст. І. П. Шаскольскі выступіў з крытыкай гэтага тэзіса, які беспадстаўна прыніжаў значэнне паўн. часткі шляху. Большасць сучасных даследчыкаў (Л. В. Аляксееў, Вас. А. Булкін, В. Н. Рабцэвіч, М. Б. Свярдлоў, В. В. Сядоў) лічаць, што ён пачаў дзейнічаць ужо ў 9 ст., іншыя (Д. А. Аўдусін) сцвярджаюць, што актыўны транзітны гандаль па ўсім шляху развіваўся толькі з 10 ст. Г. С. Лебедзеў вылучыў 5 этапаў у яго развіцці (некаторыя з іх храналагічна часткова супадаюць): 800—833, 825—900, 850—950, 900—980, 950—1050. На яго думку, шлях выкарыстоўваўся ўжо на першым этапе цыркуляцыі арабскіх срэбраных манет дырхемаў ва Усх. Еўропе (800—833). Гэтым часам датуюцца іх найб. раннія знаходкі на тэр. ад р. Волхаў да Верхняга і Сярэдняга Падняпроўя. У літаратуры актыўна дыскуціруецца пытанне пра ролю значнага гандлёва-рамесніцкага паселішча Гнёздава пад Смаленскам у функцыянаванні транзітных водных шляхоў мерыдыяльнага і шыротнага напрамкаў. Археолагі Булкін, Лебедзеў і інш. адносяць пачатак яго дзейнасці да 2-й пал. 9 ст., Аўдусін і Т. А. Пушкіна — да 10 ст. Мяшанае славяна-скандынаўскае насельніцтва Гнёздава кантралявала рух людзей з таварамі па Касплянскім *волаку*, што злучаў Дняпроўскі і Заходнядзвінскі адрэзкі шляху і актыўна выкарыстоўваўся ў 10 ст. З 11 ст. ўзрастае роля волака па р. Лучосе. Пасля 1221 кантроль за Лучасян-

скім і Усвяцкім волакамі перайшоў да полацкіх князёў. Зах. Дзвіна з 2-й трэці 9 ст. з'яўлялася адным з самых значных адгалінаванняў шляху, па якім плавалі да Балтыйскага мора і назад усх. славяне і скандынавы. Шлях быў звязаны з Заходнядзвінскай магістраллю таксама праз рэкі Дрыса, Палата, Вялікая, Нарва, азёры Чудское, Езярышча. На тэр. Беларусі ўздоўж шляху і яго адгалінаванняў сустракаюцца знаходкі арабскіх дырхемаў, візантыйскіх манет, розных прывазных рэчаў скандынаўскага, зах.-еўрапейскага, візантыйскага і ўсх. паходжання, вырабы кіеўскіх і наўгародскіх рамеснікаў, таварныя пломбы драгічынскага тыпу. Ён выкарыстоўваўся і ў 12 ст., а з 13 ст. больш значную ролю ў міжнар. гандлі набыў Заходнядзвінскі шлях, па якім Віцебск, Полацк, Смаленск непасрэдна гандлявалі з Рыгай, Готландам, ням. гарадамі. Навейшыя археал. і нумізматычныя даныя сведчаць, што розныя адрэзкі шляху неадначасова падключыліся да міжнар. транзітнага гандлю: рэкі Нява і Волхаў у пач. 9 ст., Зах. Дзвіна ў 2-й трэці 9 ст. Найбольш актыўная дзейнасць на ўсім яго працягу ў 2700 км ад Балтыйскага да Чорнага мораў прыпадае на 10 ст. У 1985—87 Геаграфічным т-вам СССР была арганізавана Усесаюзная комплексная навукова-спартыўная экспедыцыя «Нево» з удзелам археал. групы (кіраўнік Лебедзеў), што займаецца вывучэннем сярэдневяковых археал. помнікаў уздоўж шляху. Экспедыцыя ўстанавіла, што на праходжанне шляху нашым продкам патрэбна было затраціць не менш як 90—95 сутачных пераходаў, а з днёўкамі ўвесь шлях займаў каля 115—120 сутак, з якіх 2 тыдні прыпадала на пераадоленне волакаў.

*Літ.*: 3а, 48, 127а, 154а, 176, 655, 656, 1046а. ***В. Б. Перхаўка.***

**ШЛЯХІ́ ГАНДЛЁВЫЯ.** Значэнне гандл. шляхоў узрасло ў сувязі з аддзяленнем рамёстваў ад земляробства, пачаткам таварна-грашовых адносін, зацікаўленасцю феад. вярхоў у збыце лішкаў натуральнага аброку. Паводле пісьмовых крыніц, праз тэр. Беларусі ў 9—13 ст. праходзіў *шлях з «варагаў у грэкі»* і шлях па Зах. Дзвіне. Археал. і нумізматычныя матэрыялы, тапаграфаванне знаходак прывазных рэчаў і манет дазваляюць больш поўна і ўсебакова ахарактарызаваць сярэдневяковыя Ш. г. Заходнядзвінская магістраль набыла міжнар. значэнне да сярэдзіны 9 ст., Дняпроўскі шлях — да канца 9 ст., а дарога па Прыпяці і Зах. Бугу ў 10 ст., пра што сведчаць знаходкі арабскіх срэбраных манет — *дырхемаў.* У 11 ст. па Зах. Дзвіне, радзей па Прыпяцка-Бугскай магістралі гандляры прывозілі зах.-еўрап. срэбраныя манеты — дэнарыі — і серабро ў выглядзе злітказ і ўпрыгожанняў (гл. *Дзягцянскі манетна-рэчавы скарб, Полацкі рэчавы скарб*). Меншае значэнне меў гандаль з Літвой і Прусіяй па Нёмане. Прыпяць і Дняпро звязалі стараж.-рус. цэнтры на тэр. Беларусі з Кіевам, адкуль паступалі вырабы мясцовых рамеснікаў і візантыйскія тавары (віно і аліўкавы алей у гліняных амфарах, манеты, шаўковыя тканіны, паліваны посуд, шкляныя бранзалеты). Па Заходнядзвінскім, Прыпяцка-Бугскім і Нёманскім шляхах праз тэр. Беларусі ў Польшчу, Прусію, Літву, Латвію, балтыйскія краіны з 11 ст. вывозілі стараж.-рус. вісячыя дзвярныя замкі трубкаватай формы, гліняныя паліваныя рознакаляровыя яечкі-пісанкі і асабліва ў вялікай колькасці праслíцы з ружовага і фіялетавага оўруцкага сланцу. Ш. г. выкарыстоўваліся і для транзіту тавараў з З і У праз бел. землі ў іншыя краіны. З Зах. Еўропы па іх вазілі бронзавы посуд, вадалеі, сукны, каляровыя металы, з усх. краін — пацеркі з горнага хрусталю і сердаліку, фаянсавы посуд. Паводле археал. даных, найб. актыўны гандаль па Прыпяцка-Бугскай магістралі разгарнуўся ў 12 ст., пра што сведчаць большасць свінцовых таварных пломбаў, знойдзеных у Драгічыне Надбужскім, дзе існавалі міжнар. кірмаш і мытніца. Гандлёвы абмен Віцебска, Полацка і Смаленска па Зах. Дзвіне з Рыгай, Готландам і нямецкімі гарадамі набыў вял. размах з 1-й трэці 13 ст., калі былі заключаны першыя міжнар. пагадненні адносна яго ўмоў. Менш зручныя сухапутныя Ш. г. звычайна праходзілі ўздоўж рэк, праз іх водападзелы і злучалі паміж сабой стараж.-рус. гарады, што знаходзіліся ў розных рачных басейнах. Узімку па замёрзлых рэчках пракладваліся санныя дарогі («зімнікі»). Пры раскопках Брэста, Віцебска, Мінска, Полацка і інш. знойдзены рэшткі сярэдневяковых сродкаў транспарту (драўляных колаў ад фурманак, чаўноў), на якіх перавозілі тавары. Існаванне шматлікіх парогаў (у прыватнасці, на Зах. Дзвіне), водмелей і *волакаў* у вярхоўях рэк перашкаджала гандл. суднаходству і прымушала выкарыстоўваць пласкадонныя рачныя чаўны з невял. асадкай. Не толькі на граніцах Русі, але і ўнутры яе тэрыторыі, асабліва з 12 ст. ў перыяд раздробленасці ў важнейшых месцах Ш. г. (каля мастоў, рачных перапраў, на волаках) узнікалі мытніцы для збору пошлін у карысць мясц. князя. Дзейнасць Ш. г., безумоўна, спрыяла эканам. развіццю зах.-рус. гарадоў, але не з'яўлялася першапрычынай іх узнікнення. Перавозкам тавараў па Ш. г.



Аўтар В.Б.Перхаўка

нярэдка перашкаджалі ўсобіцы, сутычкі на руска-польскай граніцы, набегі ятвягаў і літоўцаў на зах.-рус. землі. У 2-й пал. 13 ст. пасля мангольскага нашэсця значна змяніліся ўмовы існавання Ш. г., асабліва па Дняпры і Прыпяці, але іх актыўная дзейнасць працягвалася і пазней, у 14—15 ст.

*Літ.*: 46, 268, 369, 389, 672, 848, 876, 1013, 1044, 1346. *В. Б. Перхаўка.*

**ШЛЯХІ́ ПЕРШАПАЧАТКО́ВАГА ЗАСЯЛЕ́ННЯ** Беларусі чалавекам. У старажытнасці найб. зручнымі і часта адзінымі месцамі для асвойвання тэрыторыі былі рэкі і рачныя даліны. Рэкі перасякалі ледавіковыя раўніны, прабіваліся праз дрымучыя лясы і топкія балоты, да іх сыходзіліся звярыныя сцежкі, на якіх першабытнаму чалавеку можна было лягчэй высачыць здабычу. Рэкі забяспечвалі яго пітной вадой, памагалі арыентавацца на мясцовасці і наладжваць сувязь паміж абшчынамі і плямёнамі. Спачатку існавалі «прарэкі», яны былі больш паўнаводныя за цяперашнія рэкі, з шырокімі і глыбокімі далінамі, якія пазней былі запоўнены рачнымі наносамі. Пад старaж. алювіем нярэдка пахаваны рэшткі матэрыяльнай культуры. Пасля кожнага з 4—6 апошніх ледавікоў рачная сетка паступова набывала сучасныя абрысы. У ледавіковыя эпохі (320—11 тыс. г. таму назад) Балтыйскі басейн і Вял. Еўрап. водападзел знікалі пад ледавіковым шчытом. Уздоўж паўд. краю ледавіка існаваў сцёк на З і Пд. Водныя патокі з прыледавіковых азёр прабівалі даліны на ПдЗ праз пакінутыя ледавіком марэны. На тэр. Беларусі амаль усе рэкі належалі Дняпроўскаму басейну. У міжледавіковыя эпохі Балтыйскае мора і гал. еўрап. водападзел аднаўляліся, частка рэк мяняла напрамак. На месцы рэк, што знікалі, заставаліся мёртвыя, скразныя даліны, па якіх было зручна перапраўляцца з аднаго рачнога басейна ў другі, наладжваць волакі, пазней пракопваць каналы. На З вялі Прыпяцка-Бугскі шлях праз Свіцязьскую азёрную групу або Піну і Мухавец. Ясельда адкрывала 2 напрамкі: па р. Нараў у Буг і Віслу, а праз Спораўскае воз. і Ружанку да Нёмана. Прыпяць з Нёманам злучалі 3 шляхі: па Лані, Случы ці Пцічы. Выключнае значэнне мела Бярэзіна (Бяроза Дняпроўская), якая ў старажытнасці, магчыма, лічылася вытокам Дняпра (Барысфена). Трыма прытокамі Свіслачы можна было трапіць у Вілію і адным праз Ісілач — у Бярэзіну Нёманскую. Па Бабры, Лукомцы, Сергучы можна было дабрацца праз Улу ў Зах. Дзвіну. Зручным быў шлях з Дняпра па Друці ў Лучосу. Некалькі добрых волакаў існавала на Смаленшчыне праз Касплю і Усвяты ў Зах. Дзвіну і Ловаць да Ноўгарада. З басейна Зах. Дзвіны можна было плысці праз азёры Обаль — Невель да Ловаці і праз Дрысу — Удру да р. Вялікай (на Пскоў). Зах. Дзвіну з Віліяй і Нёманам злучала р. Друйка. Параўнаўча кароткія (2—5 км) пераваловкі ўтвараліся на месцы забалочаных скразных далін. Шляхі, якія пастаянна выкарыстоўваліся, набывалі дублікатныя назвы: Буг Паўднёвы і Заходні, Случ Гарынская і Паўночная, дзве Бярозы, дзве Свіслачы і Ісілач, Ясельда і Сакольда (Сольда). У наваколлі рэчак і волакаў найчасцей фарміраваліся стаянкі, паселішчы, гарадзішчы. У такіх месцах, пачынаючы з ранняга жал. веку, жыхары імкнуліся замацавацца на пастаяннае пражыванне. Пазней, у сярэднявеччы, тут будаваліся ўмацаваныя гарады. Наяўнасцю зручных водных шляхоў і волакаў вызначаліся напрамкі першапачатковага засялення тэрыторыі. Па іх адбываліся дагістарычныя і наступныя міграцыі плямён. З часам яны набывалі ўсё большае значэнне як шляхі зносін, напрамкі распаўсюджвання інфармацыйных патокаў, гандлю, культурных уплываў. Канфігурацыяй Ш. п. з. абумоўліваліся арэалы археал. культур і першабытных этнасаў, іх раздзяленне на лакальныя варыянты і галіны. Першапачатковае пранікненне *краманьёнцаў* (паўн. еўрапеоідаў) на тэр. Беларусі адбывалася Валынскім (па Бугу, Гарыні, Стыры, Стаходу) і Дняпроўскім шляхамі ў верхнім палеаліце або напярэдадні гэтай эпохі (гл. *Каменны век, Палеаліт*). Сталае насельніцтва тут утварылася толькі ў канцы палеаліту і ў мезаліце. Найб. шчыльнасці яно дасягнула на ПдЗ (верхняя Прыпяць) і ПдУ (у басейне Сажа). З сярэдзіны 3-га тысячагоддзя да н. э. пачалося рассяленне плямён старaж. індаеўрапейцаў з Пд, верагодна, з другой прычарнаморскай прарадзімы. На ПнУ Еўропы, у басейнах Волгі, Акі, Дзясны яны сутыкнуліся з фіна-уграмі. У гэтыя часы замацаваліся назвы некаторых вял. рэк, якія сведчаць і аб Ш. п. з. Верагодна, фіна-угорскімі з'яўляюцца назвы Ака, Ра (Волга), Пра, Проня, Сож (Сожа), індаеўрапейскімі — Дон («Танаіс»), Дняпро (Данапрас), Днестр («дон» — рака), адсюль у старaж. еўрапейцаў Данцвій, Донаў (Дунай), Дзюна (Дзвіна Рубон). Да Балтыйскага мора паўн.-зах. галіна індаеўрапейскіх плямён накіроўвалася па Вісле і Нёмане, Прыпяці і Ясельдзе. У басейне Нёмана ўтварылася нагрувашчанне старaж.-еўрап. гідронімаў: Нёман (старажытная назва Мемель) ад «мель» — чорная; Ясельда — ад «алда» — рака (адсюль балцкая і слав. назвы рачнога судна: альда, ладдзя); Прыпяць — ад «пры» — моцны і «петс» — стапа, што можа азначаць «які моцна наслядзіў»; Вісла, Віступла — ад «віс» і «тулія» — сутокі вод. Магчыма, да ліку індаеўрапейскіх адносяцца гідронімы Льва, Зэльва, Сялява, шматлікія назвы з канчаткамі на «эльв» у Швецыі. На Пн Беларусі і ў Прыбалтыцы захаваліся фіна-угорскія назвы азёр Сора, Сарочы, Сар'я, рэк з канчаткамі ў назвах, уласцівымі фіна-угорскай мове: Вожа, Волма, Можа, Мокша, Пярга, Рыдыга, Скема, Удога, Шоша. У Верхнім Падняпроўі, паміж Зах. Дзвіной і Прыпяццю, вельмі пашыраны балцкія гідронімы (да 1000), што сведчыць пра этнічную прыналежнасць мясц. старaж. плямён. Бяроза — ад «бержас» — бяроза, светлая, індаеўрапейскага «берк» — свяціцца. Рэчкі Друць, Друя, Дрыса — ад балцкага «друтас» — моцны; Даўгава — паўнаводная («дауг» — балцкае «многа», «ава» — фінскае «рака»); Дзісна, Дзясна, Цна — правабярэжніцы, Дунай (Дунова) — багніца, Гайна — лясная, Арэса — кулікоўка, Дзітва — крынічная, Оса — жвавая, Палача — балацянка, Пліса — чыставодка, Рэкта, Рэста — крынічніцы, Іпа, Іпуць, Нятупа — рэчкі («іпа», «упа» — рака), Була, Ула, Ола — вірніцы, ямніцы, Тур'я — дрыгвянка («турас» — дрыгва), Лучоса — перагібістая, Лоша — ласосеўка, Лідзея — шчупачоўка, Вілія (Нерыс) — хвалістая, Ольса — альшаніца і г. д. Славянскія назвы вядомы на Пд ад Прыпяці і ў басейне Віслы (Мытвіца, Сведзь, Случ, Стаход, Дарагабуж, Завойць, Лань, Убарць, Язда і інш.). Левабярэжжа Дняпра доўгі час займалі індаіранскія плямёны *(скіфы)*, ад іх — назвы Арыя, Сейм, Харопуць, Эсмань, магчыма, Буг, Бася (Басея), Вецъ, Іпуць, Прут. У вярхоўі Віслы жылі кельты, на мове якіх «віс» — паток, «рус» — возера. Германскія плямёны, у прыватнасці готы, маглі назваць рэкі Вкра, Окра, Згова, Полтва, Скрва ў Польшчы, Стыр («бык»), Лахва, Чаква, воз. Нобель («пуп») і інш. Самыя старaж. сухапутныя шляхі, пачынаючы з часоў індаеўрапейскага рассялення, часта пракладвалі ўздоўж рэк. На ПдУ ад Балтыкі рассяляліся плямёны культур лейкападобных кубкаў, шарападобных амфар, тшцінецкай, лужыцкай, паморскай, а таксама вельбарскай, венедскай, чарняхоўскай. Яны былі прыдатныя і да германскага, і да славянскага этнагенезу. Этнічная гісторыя апіраецца не толькі на вызначэнне паходжання і падабенства культур, але і на этнічную прыналежнасць і час узнікнення гідронімаў у арэалах гэтых культур, асабліва тых,

што сустракаюцца на Ш. п. з. Здаўна існавалі «бурштынавыя», «крамянёвыя», «саляныя» шляхі.

*Літ.*: 218, 467. *У. Ф. Ісаенка.*

**ШМАТВАЛІКАВАЙ КЕРАМІКІ КУЛЬТУРА,** археал. культура плямён бронзавага веку, якія ў 17—16 ст. да н. э. жылі на тэр. Малдавіі, стэпавай і ў паўд. раёнах лесастэпавай Украіны, у басейне Дона. Назва культуры ад арнаменту з наляпных валікаў на гліняным посудзе. Культура вылучана С. С. Беразанскай у 1960. Цэнтрам гэтай культуры яна лічыць міжрэчча Дняпра і Северскага Данца, помнікі культуры знойдзены таксама на Валыні і на Волзе; Беразанская вылучае 4 варыянты культуры: паўднёва-заходні, сярэднедняпроўскі, ніжнедняпроўскі, усходні (данецкі). Найб. блізкі да Беларусі — сярэднедняпроўскі варыянт, паўн. мяжу якога Беразінская даводзіць да Прыпяці. Характэрная адзнака гэтай культуры — таўстасценныя гаршкі з патоўшчаным венчыкам, аздобленыя арнаментам з наляпных валікаў у выглядзе елачкі ці паралельных гарызантальных радоў. Характар размяшчэння арнаменту блізкі да арнаментацыі сярэднедняпроўскай культуры, аднак формы гаршкоў нагадваюць посуд сосніцкага тыпу. На тэр. Бел. Падняпроўя фрагменты посуду гэтай культуры часцей трапляюцца з матэрыяламі сярэдняй ці позняй бронзы, чым з матэрыяламі *сярэднедняпроўскай культуры.* Магчыма, датаванне культуры патрабуе ўдакладнення. На тэр. Беларусі пакуль не выяўлены помнікі з больш-менш значнай колькасцю матэрыялаў Ш. к. к.

*Літ.*: 123. *М. У. Бычкоў.*

**ШМІТ** (Szmit) Зыгмунт (жнівень 1895, Беласток — 2.1.1929), польскі археолаг. Працаваў настаўнікам у Драгічыне Надбужскім. З 1926 асістэнт Археал. музея ў Варшаве. У 1921—25 адкрыў і даследаваў пераважна стаянкі каменнага і бронзавага вякоў на Пабужжы (паўд. захад Брэсцкай вобл. і Пд Падляшша). У 1922 вёў раскопкі на тэр. Белавежскай пушчы. У 1925 пачаў даследаваць Краснасельскія крэменездабыўныя шахты.

*М. М. Чарняўскі.*

**ШМІТ** Яўген Альфрэдавіч (н. 6.12. 1920, г. Рудня Смаленскай вобл.), рускі гісторык, археолаг. Д-р гіст. навук (1975), прафесар (1976). Скончыў Маскоўскі педінстытут (1947). У 1947—62 навук. супрацоўнік Смаленскага краязнаўчага н.-д. ін-та. З 1964 выкладчык, з 1976 заг. кафедры ўсеагульнай гісторыі Смаленскага педінстытута. Займаецца археалогіяй і гісторыяй Верхняга Падняпроўя і Падзвіння. Упершыню выявіў і даследаваў у вярхоўях Дняпра помнікі культуры шарападобных амфар, у міжрэччы Дняпра і Зах. Дзвіны — могільнікі і паселішчы сярэдзіны і 3-й чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. Распрацоўваў пытанні культуры, храналогіі і этнічнай прыналежнасці плямён днепрадзвінскай культуры ранняга жал. веку. Вылучыў асаблівасці тушамлінскай культуры ў Смаленскім рэгіёне. Даследаваў доўгія курганы, этнагенез крывічоў, іх пахавальны абрад у Падняпроўі ў час пераходу да хрысціянства (11—13 ст.).

*Тв.:* Курганы XI—XIII веков у дер. Харлапова в Смоленском Поднепровье // Материалы по изучению Смоленской области. Смоленск, 1957. Вып. 2; Древние городища Смоленщины. М.; Л., 1963 (разам з П. М. Трацяковым); Некоторые результаты изучения археологических памятников третьей четверти 1-го тысячелетия н. э. в Смоленском Поднепровье // Древности Белоруссии. Мн., 1966; О культуре городищ-убежищ левобережной Смоленщины // Древние славяне и их соседи. М., 1970; Племена Смоленского Поднепровья и Подвинья в эпоху великого переселения народов // Социально-экономическое развитие России и зарубежных стран. Смоленск, 1972; Археологические памятники Смоленской области (с древнейших времен до VIII века н. э.). Смоленск. 1976; Тушемлинская культура на Верхнем Днепре и формирование смоленских кривичей // Северная Русь и ее соседи в эпоху раннего средневековья. Л., 1982; Древнерусские археологические памятники Смоленской области. Ч. 1—2. М., 1982—83; Оборонительные сооружения восточнобалтских племен днепродвинской культуры середины I тысячелетия до н. э. // Новое в археологии Прибалтики и соседних территорий: Сб. статей. Таллинн, 1985; Некоторые особенности погребального обряда смоленских кривичей в период перехода от язычества к христианству // Древности славян и Руси. Мн., 1988. *В. С. Вяргей.*



Фрагменты гаршкоў **шнуравой керамікі культур** з паселішча Загорыны Мазырскага р-на.

**ШНУРАВОЙ КЕРАМІКІ КУЛЬТУРЫ,** археал. культуры плямён, якія ў 2-й пал. 3-га — 1-й пал. 2-га тысячагоддзя да н. э. насялялі тэр. ад Волгі да Ніжняга Рэйна, ад Паўд. Скандынавіі да вярхоўяў Эльбы і Днястра, у т. л. Сярэдняе Падняпроўе. Уяўляюць сабой культурна-гіст. агульнасць культур шнуравой керамікі — кубкаў, лодкападобных і баявых сякер, адзіночных пахаванняў і інш. Назву атрымалі ад характэрнага арнаменту ў выглядзе адбіткаў шнура на гліняным посудзе. У розны час Ш. к. к. даследавалі Дз. А. Крайноў, І. І. Арцёменка, І. К. Свешнікаў, Х. А. Маора, Я. Махнік, П. Глоба, М. Бухвальдак і інш. Насельніцтва Ш. к. к. займалася земляробствам і жывёлагадоўляй, жыло на невял. паселішчах па берагах рэк і азёр. Жытлы слупавой канструкцыі, прамавугольныя наземныя ці крыху заглыбленыя, былі, відаць, і наземныя зрубныя. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на курганных і бескурганных могільніках. Кераміка прадстаўлена глі顿нымі пасудзінамі з высокімі цыліндрычнымі шыйкамі, S-падобным профілем, шарападобнымі амфарамі з кароткай шыйкай і 2 ручкамі-вушкамі (цюрынгскі тып). Посуд арнаментаваны адбіткамі шнура, наразнымі лініямі. Сярод прылад працы каменныя сякеры, крамянёвыя сякеры-кліны, наканечнікі стрэл, коп'яў, серпападобныя нажы, медныя і бронзавыя вырабы. Радзей трапляюцца касцяныя прылады і ўпрыгожанні. На тэр. Беларусі вылучаюцца помнікі наступных Ш. к. к.: *сярэднедняпроўскай культуры* (Верхняе Падняпроўе, Усх. Палессе), *шнуравой керамікі Палесся культуры* (Зах. Палессе), віслянёманскай культуры (Панямонне), *паўночнабеларуская культуры* (паўн. раёны Беларусі). Са з'яўленнем на Беларусі Ш. к. к. (2-е тысячагоддзе да н. э.) пачынаецца эпоха бронзы, пашыраюцца жывёлагадоўля і земляробства. На Пд Беларусі гэта адбылося хутчэй за ўсё ў пач. 2-га тысячагоддзя да н. э. Працэс фарміравання Ш. к. к. рэканструюецца не адназначна. Многія даследчыкі скептычна ставяцца да тэорыі «агульнаеўрапейскага гарызонту», паводле якой Ш. к. к. папярэднічала распаўсюджанне адзінага культурнага пласта, пакінутага групай рухомых плямён жывёлаводаў. У выніку пэўных перамяшчэнняў яны асімілявалі тубыльцаў, што і прывяло да ўтварэння Ш. к. к. Улічваючы своеасаблівасць развіцця кожнай культуры на фоне іх генетычнай роднасці, можна меркаваць пра ўзаемную асіміляцыю мясц. і прышлых груп насельніцтва, што спрыяла спалучэнню найб. устойлівых прыкмет і ўтварэнню Ш. к. к.

Генетычная блізкасць Ш. к. к. дазваляе шукаць іх вытокі ў лесастэпавой зоне Правабярэжнай Украіны, паміж Дняпром і Віслай, Віслай і Рэйнам, на тэр. паўд.-ўсх. Еўропы. Арэал распаўсюджання Ш. к. к амаль поўнасцю супадае з межамі рассялення ў больш позні час славян, балтаў, германцаў. Мяркуюць, што Ш. к. к адыгралі важную ролю ў фарміраванні праславянскай, прабалцкай і прагерманскай культур. Паўн.-ўсх. група Ш. к. к (сярэднедняпроўская, фацьянаўская, усх.-прыбалтыйская, вісла-нёманская культуры), якая да таго ж мела пэўную антрапалагічную агульнасць (даліхакранны і параўнальна шыракатвары антрапалагічны тып), часам лічыцца старaж.-балтыйскай.

*Літ.:* 79, 125, 158, 847, 1278.
*М. М. Крывальцэвіч.*

**ШНУРАВОЙ КЕРАМІКІ ПАЛЕССЯ КУЛЬТУРА,** археал. культура плямён, якія каля 1800—1400 г. да н. э. жылі на З Бел. Палесся; адна са *шнуравой керамікі культур.* Даследавалі ў розны час У. Ф. Ісаенка, Ю. У. Кухарэнка. Насельніцтва займалася земляробствам і жывёлагадоўляй, жыло на паселішчах на поплаўных узвышшах і 1-й надпоплаўнай тэрасе. Жытлы — паўзямлянкі з агнішчамі. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў скурчаным становішчы на бескурганных могільніках. Кераміка Ш. к. П. к. прадстаўлена гаршкамі з S-падобным профілем, патоўшчаным краем і вушкамі, кубкамі з косазрэзанымі краямі, амфарамі з раздутым тулавам і вузкай цыліндрычнай шыйкай; іх днішчы шырокія і пляскатыя. Посуд выраблялі з гліны, у якую дамешвалі пясок ці шамот, і загладжвалі пучком травы або саломы, у верхняй частцы ўпрыгожвалі адбіткамі шнура, «вусенькамі», лінейным штампам, наколамі, налепамі, «каўнерыкамі». Сярод прылад шліфаваныя крамянёвыя сякеры-кліны, сярпы, сэрца- і лістападобныя тронкавыя наканечнікі стрэл, коп'яў і дроцікаў, свідраваныя каменныя сякеры розных тыпаў (пераважна клінападобныя), матыкі, зерняцёркі і інш. Трапляюцца вырабы з бронзы і медзі. Большасць матэрыялаў Ш. к. П. к. выяўлена на помніках *Востраў, Камень, Моталь,* Уладычына, Цярэбін (Пінскі р-н) і інш. Ш. к. П. к. часам атаясамліваюць з гарадоцка-здоўбіцкай і стшыжоўскай культурамі (гл. адпаведныя артыкулы).

*Літ.:* 454, 847. *М. М. Крывальцэвіч.*

**ШО,** курганны могільнік полацкіх крывічоў каля в. Шо Глыбоцкага р-на. За 900 м на У ад вёскі, у лесе, справа ад дарогі ў в. Ліпава. 35 насыпаў выш. 1—3 м, дыям. 4—10 м. Даследавалі 16 курганоў у 1939 У. Галубовіч і Г. Цэгак-Галубовіч. Пахавальны абрад — трупапалажэнне (у 15 курганах у падкурганных ямах, у 1 — на грунце).

Выяўлена пахаванне дзіцяці 7—9 гадоў у багатым адзенні. На яго грудзях засцежка падкоўападобнай формы, на бёдрах — рэшткі пояса ў выглядзе круглых і сэрцападобных металічных пласцінак з рэльефным штампаваным арнаментам і спражкі сэрцападобнай формы, на поясе нож, на пальцах рук пярсцёнкі, на правай руцэ бранзалет, у нагах вял. сякера з шырокім лязом, наканечнікі коп'яў; паблізу шкілета — чэрап барана. У іншых пахаваннях знойдзены гладкія бранзалеты, нажы, крэсівы, наканечнікі коп'яў, сякеры. У адным з мужчынскіх пахаванняў выяўлены сярэбраны медальён — імітацыя арабскага дырхема канца 10 — пач. 11 ст.



Крамянёвы кінжал **шнуравой керамікі Палесся культуры** з Маларыты.



**Шпора** з рапейкай з Лепеля. 15 ст.

Абследавалі ў 1972 М. А. Ткачоў, у 1981 Л. У. Дучыц. Курганы датуюцца 11—13 ст.

*Літ.:* 241. *Л. У. Дучыц.*

**ШПЛЕЎСКІ** Павел Міхайлавіч [псеўд. Драўлянскі, Знакомы чалавек, Барон Ікс; 31.10(12.11).1823, в. Шыпілавічы Бабруйскага р-на — 17(29).10. 1861], беларускі і рускі этнограф, фалькларыст, краязнавец, археолаг, пісьменнік, тэатразнавец. Скончыў Мінскую духоўную семінарыю (1843), Пецярбургскую духоўную акадэмію (1847). Працаваў у Варшаўскім павятовым духоўным вучылішчы (1847—52), Пецярбургскім галоўным педагагічным ін-це (1853—55). У сталічным друку змяшчаў матэрыялы пра Беларусь: «Беларускія народныя павер'і» (1846—52), «Апісанне пасольства Льва Сапегі ў Маскву ў 1600 годзе» (1850), «Даследаванне пра ваўкалакаў...» (1853), «Мазыршчына (З падарожжа па заходнярускім краі)» (1859), «Паездка ў заходнія губерні» (1860) і інш. Серыя артыкулаў «Беларусь у характарыстычных апісаннях і фантастычных яе казках» у час. «Пантеон» (1853—56) была адзначана М. Чарнышэўскім, А. Пыпіным і інш. У «Падарожжы па Палессі і Беларускім краі» («Современник», 1853—55) цікавыя звесткі з гісторыі гарадоў (Брэста, Мінска), мястэчак і вёсак Беларусі, побыту, звычаяў народа. У публікацыі «Археалагічная знаходка» апісаў унікальны экспанат Віленскага музея старажытнасцей — кальчугу са старaж.-слав. надпісамі, знойдзеную ў Оршы ў 1856 пры буд. работах. Творы Ш., прысвечаныя Беларусі, сцвярджалі нац. самабытнасць бел. народа, садзейнічалі фарміраванню бел. нац. культуры.

*Тв.:* Путешествие по Полесью и Белорусскому краю. Спб., 1858; Археологическая находка // Санкт-Петербургские ведомости. 1857. № 18.

*Літ.:* 513, 535. *Г. А. Каханоўскі.*

**ШПОРА** (ад ням. Sporn штуршок; старажытнарус. «острогъ»), элемент рыштунку коннікаў; металічная дужка з шыпам або зубчастым калёсікам (рапейка). Мацавалася да абутку скуранымі калястопнымі рамянямі. Выраблялі з жалеза, бронзы, зрэдку серабра, золата.

У Еўропе атрымала пашырэнне ў сувязі з міграцыямі кельтаў, ад іх запазычана германцамі, праславянамі, балтамі. Найстаражытнейшая Ш. знойдзена ў курганным пахаванні 5 ст. да н. э. каля Брэзье ў Славеніі (Югаславія).

На Беларусі з'явілася ў раннім жал. веку. Вядома каля 20 Ш. 1-га тысячагоддзя н. э. ў выглядзе невял. жал. дужкі з вострым канічным шыпам і адагнутымі вонкі кручкамі на канцах. Іх насілі на адной назе. Самая старaж. латэнская жалезная Ш. 1 ст. да н. э. знойдзена на гарадзішчы *Чаплін.* Шпоры рымскага часу (3—4 ст.) выяўлены таксама ў Чапліне, на гарадзішчах *Дзявічкі, Дзядзілавічы, Лабеншчына,* фрагмент рымскай жал. імпартнай Ш. 2—3 ст.— у могільніку *Дружба* (б. Скарбічы Камянецкага р-на), 3—5 ст. каля в. *Тайманава, Шчаткава.* Ш. 6—7 ст. (4 цэлыя і палавінка з шыпам) вядомы па раскопках помнікаў *банцараўскай культуры* каля в. *Гарадзішча* (Мядзельскі р-н) і *Некасецк,* гарадзішча *Стары Шклоў,* самых ранніх доўгіх курганоў *Дарахі* (Гарадоцкі р-н). У 8—9 ст. на Беларусі з'явіліся Ш. з загнутымі ў сярэдзіну кручкамі на канцах (Ваўкавыск, Чаплін). Адрозніваюцца па форме Ш. з *усходнелітоўскіх курганоў* (Паніззе, *Засвір*). У часы Кіеўскай Русі Ш. пашыраны на ўсёй тэр. Беларусі, сталі абавязковым атрыбутам рыштунку ўдзельнікаў конных сшыбак. Яны адрозніваліся па даўжыні і

форме шыпоў, дужак, петляў, трымальнікаў. Вядомы Ш. 12—13 ст., упрыгожаныя сярэбранымі і бронзавымі насечкамі. Каля 200 экземпляраў Ш. 11—14 ст. выяўлены ў сярэдневяковых пластах гарадоў Бярэсце (38), Ваўкавыск (55), Мінск (21), Навагрудак (21) і інш. У гэты час вершнікі насілі іх на кожнай назе. Акрамя дарослых, знойдзены дзіцячыя і юнацкія Ш. (Мінск, Навагрудак). У 11—12 ст. Ш. мелі выгляд доўгай дужкі з шыпам у выглядзе конуса або піраміды, часам з шарападобным патаўшчэннем. Мацавалі іх раменьчыкамі за проразі ў расшыраных пласцінках ці заклёпкі на канцах дужак. З 12 ст. пачалі выпрабляць Ш. з увагнутымі плечукамі і шыпам пад вуглом да іх. У 1220—30-х г. на Беларусі і інш. усх.-слав. землях з'явіліся Ш. з рапейкай замест шыпа. Пасля 1300 (магчыма, і раней) гэта форма Ш. выцесніла шыпавыя. Спачатку колькасць зубцоў у калёсіку было не больш за 10, а пазней — 10—20 і адносна доўгі (4—10 см), злёгку выгнуты трымальнік калёсіка. Дугі Ш. 14—15 ст. паўцыркульна прагнутыя, часта мелі каленчаты перагіб у апошняй трэці іх даўжыні. Трапляюцца Ш. з трымальнікам, адагнутым не ўніз, а ўверх, а таксама з надпятачным выступам, які тармазіў скальжэнне Ш. уздоўж задніка. Ш. 14—17 ст. тыпалагічна блізкія агульнаеўрап. формам. Пісьмовыя крыніцы 16—17 ст. паведамляюць, што ў гэты час на Беларусі вядомы некалькі відаў Ш., якія рамеснікі-пабрайцары выраблялі на высокім мастацкім узроўні: «остроги позлацаные», «остроги капланские по-краковски», «остроги з ботами сафьяновыми». Упамінаюцца і «остроги простые». У 17—20 ст. Ш. атрымалі шырокае выкарыстанне ў кавалерыі і коннай артылерыі.

*Літ.:* 530, 532, 785, 877, 894, 897, 901, 903. *В. Б. Перхаўка, М. А. Ткачоў.*

**ШТРЫХАВА́НАЙ КЕРА́МІКІ КУЛЬТУ́РА,** археал. культура балцкіх плямён, якія ў 7—6 ст. да н. э.— 4—5 ст. н. э. насялялі тэр. сярэдняй Беларусі і ўсх. Літвы. Назву атрымала ад глінянага посуду, знешняя (часта і ўнутраная) паверхня якога пакрывалася штрыхамі. Паводле асаблівасцей развіцця матэрыяльнай культуры і сацыяльна-эканам. жыцця насельніцтва вылучаюцца 3 храналагічныя перыяды Ш. к. На 1-м этапе (7—5 ст. да н. э.) насельніцтва жыло на адкрытых паселішчах, якія размяшчаліся на ўзвышэннях у паплавах рэк і азёр і мысападобных выступах першай надпоплаўнай тэрасы. Пазней паявіліся гарадзішчы. Яны ўзнікалі ў абароненых прыродай мясцінах, дзе былі прыдатныя для апрацоўкі ўчасткі і паша для жывёлы,— на ўзгорках, часам сярод балот або на мысах па берагах рэк і азёр. Самыя раннія гарадзішчы ўмацоўваліся па краі пляцовак толькі драўлянай сцяной, а схілы ўзгорка або дамыса штучна зразаліся, чым дасягалася большая стромкасць. Былі пашыраны прылады працы з косці, рога, крэменю, дрэва (каменныя сякеры, зерняцёркі, тачыльныя бруск і інш.), касцяныя і рагавыя ўпрыгожанні. Насельніцтва выпрабляла слоікападобныя пасудзіны (з прамым, увагнутым і злёгку адагнутым венчыкам), пасудзіны з конусападобным і выпуклым тулавам і гладкасценныя або штрыхаваныя гаршкі (з прамым або адагнутым венчыкам, кароткай шыйкай, апушчаным або прыўзнятым плечуком і выпуклым тулавам, плоскім ці круглаватым дном). Па шыйцы яны былі арнаментаваны рознымі па дыяметры ямкавымі ўцісканнямі, якія размяшчаліся па адной у рад, або групамі па 2—3 у кожнай, часам у выглядзе трохвугольнікаў. У гаспадарцы побач з лядным земляробствам і жывёлагадоўляй значную ролю адыгрывалі паляванне і рыбалоўства. На 2-м этапе (4—1 ст. да н. э.) у плямён Ш. к. узніклі новыя, добра ўмацаваныя гарадзішчы, а ранейшыя гарадзішчы перабудоўваліся: пляцоўкі павялічвалі, па іх краях з боку поля насыпалі валы і выкопвалі равы. Насельніцтва жыло ў вял. доўгіх дамах слупавой канструкцыі, падзеленых на некалькі (ад 3 да 6) жылых памяшканняў. Унутры іх размяшчаліся агнішчы круглай, авальнай ці падковападобнай формы, абкладзеныя па краях камянямі або валікам гліны. Разам з каменнымі, касцянымі, рагавымі вырабамі выкарыстоўваліся і жал. прылады працы, зброя. Ва ўжытку па-ранейшаму былі таўстасценныя і слабаабпаленыя слоікападобныя пасудзіны і гладкасценныя або штрыхаваныя гаршкі. На 3-м этапе (1—5 ст. н. э.) гарадзішчы ўмацоўваліся складанай сістэмай земляных валоў з драўлянымі канструкцыямі на іх грэбені і глыбокіх равоў. На змену доўгім вял. дамам прыйшлі невял. чатырохвугольныя наземныя жытлы слупавой канструкцыі з адкрытымі агнішчамі ўнутры, што сведчыла пра распад патрыярхальна-родавых адносін. Асноўнымі галінамі гаспадаркі былі лядное земляробства і жывёлагадоўля, а таксама апрацоўка жалеза, косці, рога, каменю, дрэва, бронзаліцейная справа, ганчарства, прадзенне, ткацтва, пляценне і інш. Грамадскі лад — развіты патрыярхат на стадыі далейшага распаду першабытнаабшчынных адносін. Насельніцтва выраб ляла і ўжывала жалезныя сякеры з вузкім і выгнутым лязом, нажы, брытвы з выпуклым лязом, долаты, нажы для жніва, сярпы, падковападобныя і латэнскага тыпу фібулы, посахападобныя шпількі, наканечнікі коп'яў і дроцікаў, шылы, спражкі, іголкі, бронзавыя пярсцёнкі, драцяныя скроневыя кольцы, кольцы для падвешвання аздоб, спіралькі, бранзалеты з разамкнёнымі і звужанымі канцамі, трапецападобныя і акулярападобныя падвескі, гліняныя праслііцы (частка іх арнаментавана наразнымі лініямі і кропкавымі ўзорамі ў выглядзе трохвугольнікаў, ромбаў і трапецый), гліняныя грузікі і інш. Да прывазных вырабаў адносяцца падковападобныя фібулы з выемчатай эмаллю, бляхі з выявай галоўкі арла і выпуклыя бляшкі з пяцелькамі з тыльнага боку. Кераміка — штрыхаваныя і гладкасценныя рабрыстыя і слабапрафіляваныя гаршкі і пасудзіны слоікавай формы, арнаментаваныя па рабры і ў верхняй частцы зашчыпамі, ямкавымі ўцісканнямі, насечкамі, нарэзамі пазногцевымі ўцісканнямі і інш. Трапляюцца глянцаваны і падглянцаваны посуд, мініяцюрныя пасудзіны міскападобных і слоікавых форм.

*Літ.:* 785, 847. *А. Р. Мітрафанаў.*



Г. В. **Штыхаў.**

**ШТЫХА́Ў** Георгій Васілевіч (н. 14.7.1927, в. Старая Беліца, цяпер Гомельскі р-н), беларускі археолаг. Д-р гіст. навук (1983), прафесар (1989). Скончыў БДУ (1956). З 1962 навук. супрацоўнік, з 1981 заг. сектара, з 1988 заг. аддзела зон навабудоўляў, з 1993 заг. аддзела археалогіі і гісторыі Полацкай зямлі Ін-та гісторыі АН Беларусі. Вывучае стараж. гарады Полацкай зямлі і курганныя могільнікі ранняга сярэднявечча паўн. і цэнтр. Беларусі. З 1982 узначальвае пастаянна дзеючую экспедыцыю па даследаванні стараж. Мінска. Узначальваў экспедыцыі па вывучэнні Полацка, Віцебска, Заслаўя, Барысава, Лукомля, Лагойска, Копысі. Упершы-

ню правеў шырокае вывучэнне шэрага гарадоў (Віцебск, Заслаўе, Лагойск, Лукомль), прадоўжыў даследаванне Полацка, Мінска, Копысі, вызначыў гарадзішча стараж. Барысава. Правеў раскопкі паселішча на р. Менцы. Вывучаў пасады Полацка, Віцебска, Заслаўя, Лукомля, якія да гэтага не даследаваліся. Раскапаў больш за 300 курганоў Полацкай зямлі. Вывучаў могільнікі 3-й чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э., якія сінхронны гарадзішчам банцараўскай культуры. Зрабіў вывад, што фарміраванне зах. галіны крывічоў праходзіла на працягу 2-й пал. 1-га тысячагоддзя н. э., што гістарычным ядром Полацкай зямлі з'яўлялася Падзвінне. Даследаваў стараж. скульптуру (шклоўскі ідал 9 ст.), дробную пластыку гарадоў Полацкай зямлі, скарбы сярэбраных і залатых рэчаў (Полацкія 11—12 ст., Гараўлянскі 11 ст.). Рэдактар альбомаў «Жывапіс Беларусі XII—XVIII стагоддзяў» (1980), «Пластыка Беларусі XII—XVIII стагоддзяў» (1983), «Дэкаратыўна-прыкладное мастацтва Беларусі XII—XVIII стагоддзяў» (1984). Адзін з аўтараў кніг «Старажытныя гарады Беларусі» (1966), «Старажытныя скарбы Беларусі» (1971); «Гісторыя Беларускай ССР» (т. 1, 1972), «Нарысы па археалогіі Беларусі» (ч. 2, 1972), «Гісторыя Беларускай ССР» (1977), «Кіеў і заходнія землі Русі ў IX—XIII стст.» (1982), «Беларуская археалогія» (1987). Дзярж. прэмія Рэспублікі Беларусь (1991) за ўдзел у выданні «Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі». Прэзідэнт Бел. асацыяцыі ахвяр палітычных рэпрэсій (1992).

*Тв.:* Древнеполоцкое каменное зодчество // Белорусские древности. Мн., 1967; Галасы далёкіх продкаў. Мн., 1968; Раскопки в Лукомле в 1966—1968 годах // Древности Белоруссии. Мн., 1969; Археологическая карта Белоруссии. Вып. 2. Памятники железного века и эпохи феодализма. Мн., 1971; Вывучэнне курганоў Полацкай зямлі (X — пачатка XII ст.) // Беларускія старажытнасці. Мн., 1972; Древний Полоцк, IX—XIII вв. Мн., 1975; Города Белоруссии по летописям и раскопкам (IX—XIII вв.). Мн., 1975; Города Полоцкой земли (IX—XIII вв.). Мн., 1978; Ажываюць сівыя стагоддзі. 2 выд. Мн., 1982; Крывічы: Па матэрыялах раскопак курганоў у Паўночнай Беларусі. Мн., 1992; Гісторыя Беларусі: Кароткі нарыс: У 5 ч. Ч. 1. Мн., 1993.

*Т. М. Каробушкіна.*

**ШТЭ́МПЕЛЬ** (ням. Stempel), у манетнай справе, прылада для нанясення выявы на манетную загатоўку біццём або ціснennем; стрыжань (звычайна цыліндрычнай формы) з бронзы, пазней — жалеза. Звычайна Ш. выкарыстоўвалі ў пары, таму адрозніваюць ніжні нерухомы і верхні рухомы Ш. Ніжні Ш. замацоўвалі ў калодзе, верхні трымалі кляшчамі ў руцэ або няжорстка мацавалі. Паміж імі клалі манетную загатоўку. Выявы і *легенды* на Ш. наносілі гравіроўкаю, *пуансонамі* або *матачнікам* у выглядзе паглыблення ў люстраным адбітку. Пры рымскім імператары Аўгусце [27 г. да н. э.— 14 г. н. э.] пачала практыкавацца закалка Ш. з навугляроджанага жалеза. Фіксацыя штэмпельнай пары вядома з 1-й пал. 6 ст. да н. э. ў Грэцыі, дзе выраблялiся ўціснутыя манеты (гл. ў арт. *Тэхніка манетнай справы).* Фіксацыя аднаго Ш. ў фігурным заглыбленні другога пачала выкарыстоўвацца ў імператарскім Рыме пры Фаўсціне Малодшай [161—176], спалучэнне ў выглядзе нажніц з'явілася ў часы праўлення Канстанта Флавія Юлія [337—350]. Пры свабоднай штампоўцы верхні Ш. меў выгляд стрыжня даўж. 10—12 см (трохі большага за чалавечую далонь, для ручной молатавай штампоўкі адным чалавекам) або кароткага падкладнога штампа (3—7 см), які мацаваўся спец. рамянямі над ніжнім Ш. пры штампоўцы молатам. Са з'яўленнем вінтавога прэса розніца паміж верхнім і ніжнім Ш. амаль знікла, яго рабочая паверхня павялічылася, вышыня паменшылася да некалькіх сантыметраў. Сярэдняя колькасць адбіткаў аднаго Ш. ў срэбры 10 тыс., але верхні Ш. хутчэй зношваўся.

*Літ.:* 1542, 1565, 1678, 1688.

*І. І. Сінчук.*



К. П. **Шут.**

**ШУКЕ́ВІЧ** Вандалін Аляксандравіч [10.12.1852, в. Нача Лідскага пав. Віленскай губ. (цяпер Воранаўскі р-н Гродзенскай вобл.) — 1.12.1919], беларускі археолаг, антраполаг, краязнавец і этнограф. Чл.-кар. Кракаўскай АН. Адукацыю атрымаў у Вільні. З 1872 жыў у Начы, заснаваў агранамічны гурток маладых гаспадароў. З 1883 даследаваў курганныя і бескурганныя могільнікі каля вёсак Нача, Пузелі (Пузельская гара), Апонаўцы, Гаворскія, Тоўцішкі, Сабакінцы (Першамайская), Клябанія (Папяржыня), Нарбутова, Дварчаны, Вензаўшчына, Сырні, Чарнішкі. Толькі на тэр. Лідскага пав. даследаваў 120 каменных магіл, да 1915 абследаваў 170. Першы з бел. археолагаў раскапаў 16 курганоў і 376 каменных магіл тыпу жальнікаў 13—14 ст. Вёў раскопкі каля Віцебска, Лепеля, Радашковіч, воз. Дрысвяты. Апублікаваў у польскіх часопісах працы «З мінулага Літвы» (1906), «Успаміны з года 1863» (1907), «Музей Федаровіча» (1900), «Даўнія каралеўскія лясы ў Літве» і «Двары, замкі і палацы» (1911), «Нарысы з Белай Русі» (1912), «Возера Дрысвяты» (1913) і інш. Першы з бел. археолагаў пачаў рабіць аналізы стараж. знаходак у садружнасці са спецыялістамі-хімікамі. Запісаў шмат легенд і паданняў пра помнікі даўніны. Імкнуўся прасачыць эвалюцыю абрада пахавання ад эпохі латэна да часоў Вял. кн. Літоўскага. Першы ўзняў праблему даследавання Чорнай Русі як гіст. з'явы, надаваў асаблівае значэнне геаграфічнаму фактару яе засялення, спрабаваў даць прыкладную храналогію змены культур гэтага рэгіёна. Ш. удзельнічаў у рабоце 9-га Археалагічнага з'езда ў Вільні (1893). Быў чл. Віленскага т-ва сяброў навукі і Варшаўскага краязнаўчага т-ва. Частку матэрыялаў са сваёй багатай археал. калекцыі перадаў у музеі Кракава, Пецярбурга, Масквы, Вільні. Пахаваны на радзіме.

*Тв.:* Wykopaliska w pow. Lidzkim // Tygodnik ilustrowany. 1885. № 1; Реферат об археологических местностях в Лидском и Трокском уездах // Труды Виленского отд-ния Московского предварительного комитета по устройству в Вильне IX Археологического съезда. Вильна, 1893; Kurhany, kamienne w powiecie Lidzkim (gub. Wileńska) // Swiatowit. 1899. T. 1, 1902. T. 4; Przedmioty bronzowe znalezione nad Niemnem i Mereczanka // Там жа. 1899. Т. 1.

*Літ.:* 272, 513, 518, 1127, 1289, 1494.

*Г. А. Каханоўскі.*

**ШУ́СТАК** (польск. szóstak), польская назва манеты наміналам у *шэсць грошаў* у 16—19 ст.

**ШУТ** Кліменцій Пятровіч (1925, Чэрвеньскі р-н — 7.1.1969), беларускі археолаг. Скончыў БДУ (1960). З 1960 навук. супрацоўнік сектара археалогіі Ін-та гісторыі АН БССР. У 1959—61 удзельнічаў у рабоце Мінскай археал. экспедыцыі, а з 1963 даследаваў гарадзішчы ранняга жал. веку на Пн Беларусі. Правеў раскопкі на гарадзішчах *Кублічы, Загаваліна* Ушацкага, *Кастрыца* Лепельскага, *Урагава, Абрамава* Верхнядзвінскага, Буракова (гл. *Новы Болецк)* Гарадоцкага р-наў, на многіх гарадзішчах правеў шурфоўку (плошча даследаваных археал. аб'ектаў каля 2 тыс. м²). Адкрыў і ўвёў у навук. ўжытак больш за 10 археал. помнікаў. Падрыхтаваў археал. карту паўн. Беларусі са спісам гарадзішчаў.

*Тв.:* Обувь древнего Минска: (По археол. материалам) // Вопросы истории: Материалы IX конф. молодых ученых.

Мн., 1965; Городище Дворище // Вопросы истории и археологии. Мн., 1966; Памятники раннего железного века на севере Белоруссии // Древности Белоруссии. Мн., 1966; Городища эпохи раннего железа на северо-западе Белоруссии // Доклады к XI конференции молодых ученых Белорусской ССР (ноябрь 1967 г.). Мн., 1967; Городище Заговалино Ушачского района // Вопросы истории: (Тез. докл. XII конф. молодых ученых Белорусской ССР). Мн., 1969; Городище Кубличи Ушачского района // Древности Белоруссии. Мн., 1969. *В. І. Шадыра.*

**ШЎТАЎ** Сяргей Сяргеевіч [5 (18).7. 1906, в. Новы Быхаў — 12.9.1972], беларускі краязнавец. Скончыў медыцынскі ф-т БДУ (1929). Працаваў урачом у Клімавічах (1929), на Далёкім Усходзе (1931—33). З 1933 у Інстытуце прафесійных захворванняў (Ленінград). Археал. пошукамі пачаў займацца са школьных гадоў, збіраў калекцыю крамянёвых вырабаў. Студэнтам удзельнічаў у рабоце краязнаўчага т-ва БДУ, прымаў удзел у абследаванні помнікаў, цесна супрацоўнічаў з археолагамі Інбелкульта, быў сябрам гісторыка-археал. камісіі, потым кафедры археалогіі. У 1925—28 працаваў у шэрагу навук. экспедыцый. Пры яго непасрэдным удзеле адкрыты гарадзішча Банцараўшчына пад Мінскам (1925), паселішчы і могільнікі на Прыпяці і Сцвізе (Хільчыцы, Казаргаць, Рычоў, Сямурадцы, Буразь, 1927), Дняпры (Абідавічы, Стары Быхаў, Сялец Халапейскі і інш., 1924—26), Ушачы (Гарані, 1927). Аўтар прац «Археалагічныя разведкі на ніжняй Свіслачы ўлетку 1926 г.» (у зб.: Запіскі аддзела гуманітарных навук БАН. Мн., 1930. Працы археалагічнай камісіі, т. 2; разам з М. М. Улашчыкам), «Матэрыялы з дагісторыі Тураўшчыны» (тамсама, разам з А. Дз. Каваленем). Зрабіў важкі ўклад у развіццё бел. археалогіі.

*Літ.:* 1234. *В. С. Вяргей.*

**ШЧАГЛО́ВА** Вера Васілеўна (н. 29.8.1922, с. Тахта Мядзвежынскага пав., цяпер Краснагвардзейскі р-н Стаўрапольскага краю), палеантолаг, археазаолаг. Скончыла Ташкенцкі ун-т (1944). Канд. біялагічных навук (1950). У 1954—57, 1966—73 працавала на кафедры геалогіі БДУ. У 1957—66 старшы навук. супрацоўнік Ін-та геалагічных навук, у 1973—78 — Ін-та гісторыі АН БССР. Вывучала касцявыя рэшткі дзікіх і свойскіх жывёл з раскопак больш як 60 археал. помнікаў каменнага, жал. і сярэдніх вякоў на тэр. Беларусі. Вызначэнне больш за 100 тыс. узораў і іх статыстычная апрацоўка выкарыстаны археолагамі пры характарыстыцы гасп. дзейнасці насельніцтва Беларусі ў розныя эпохі. Аўтар больш за 30 навук. прац.

*Тв.:* Аб знаходцы ў Беларусі рэштхаў маманта ў адкладаннях рыскага ўзросту // Весці АН БССР. Сер. фіз.-тэхн. навук. 1959. № 4; К вопросу о животноводстве и охоте в Белоруссии в средние века // Древности Белоруссии. Мн., 1969; О видовом составе и соотношении между домашними и дикими животными на городищах эпохи раннего железа севера Белоруссии // Тезисы докладов к конференции по археологии Белоруссии. Мн., 1969; Einige Angaben über die alteschen Haustiere Belorusslands // Archeozool ogical studies. Amsterdam; New York, 1975. *В. І. Шадыра.*

**ШЧА́ТКАВА,** археал. помнікі каля в. Шчаткава Бабруйскага р-на.



С. С. **Шутаў.**

Гарадзішча. За 1 км на Пн ад вёскі, на правым беразе р. Бярэзіна, ва ўрочышчы Гарадок. Пляцоўка авальная, памерам 120×75 м, з боку поля ўмацавана 2 валамі і равамі. Даследавалі ў 1930 А. М. Ляўданскі, у 1959 Я. Г. Краскоўская (36 м²), у 1963 Л. Д. Побаль (372 м²). Выяўлены ямы ад слупоў і гасп. пабудоў, рэшткі агнішча, частка паўзямлянкавай пабудовы, заглыбленай у мацярык на 0,5 м.

Знойдзены фрагменты ляпных гладкасценных і штрыхаваных пасудзін, гаршкі і міскі з невысокім венчыкам, слабапрафіляваным тулавам і плоскім днішчам. Сярод знаходак жал. рыбалоўны кручок, нож, шыла, шпілька з грыбападобным навершам, падковападобная фібула, бронзавыя позналатэнская фібула, трапецападобная падвеска, дэкарыраваная кропкавымі адбіткамі, пярсцёнак, упрыгожанне з грыбападобнымі навершамі і інш., гліняныя абломкі тыгляў, прасліцы, грузікі, пацеркі, 2 шкляныя антычныя пацеркі, каменныя брускі і крамянёвыя прылады працы. Унутраны вал выш. каля 3,5 м, шыр. 12 м, падсыпаўся не менш як 6 разоў, умацоўваўся глінай. Пад самай ніжняй падсыпкай знойдзены фрагмент пасудзіны мілаградскай культуры. Вонкавы вал выш. 1,2 м, шыр. 5 м, мае 3 падсыпкі.

Гарадзішча адносіцца да ранняга жал. веку (мілаградская і зарубінецкая культуры), датуецца канцом 6 ст. да н. э.— 1—2 ст. н. э.

Селішча-1. Каля ўсх. боку гарадзішча. З Пн абмежавана поймай р. Бярэзіна, з Пд — забалочанай тэрыторыяй. Сярэдняя частка селішча пашкоджана траншэяй. Памер 200× ×300 м. У 1963 Побаль даследаваў 924 м². Выяўлены 2 паўзямлянкавыя жытлы памерамі 3,7×3,3 м і 3×3 м. Ва ўсх. куце жытла рэшткі печы-каменкі.

Знойдзены жалезныя нож і шпілька, фрагменты слабапрафіляваных гаршкоў. Другая паўзямлянка мела больш пакатыя сцены, уваход знаходзіўся ў паўд.-ўсх. частцы. Выяўлены 2 прыступкі даўж. 0,6 м і шыр. 0,3 м. Знойдзены некалькі ям ад слупоў і гасп. пабудоў, фрагменты ляпной гладкасценнай керамікі з расчосамі, жал. цвікападобныя шпількі і шпора.

Селішча адносіцца да зарубінецкай і быхаўска-калочынскай культур, да эпохі Кіеўскай Русі.

Селішча-2. За 500—800 м на ПдЗ ад гарадзішча, на правым беразе р. Панюшкавічы, каля яе ўпадзення ў Бярэзіну. Выявіў у 1962 і абследаваў у 1963 Побаль. Памер каля 300×100 м. Археал. матэрыял блізкі да знаходак з селішча-1.

Селішча-3. За 200—300 м на Пн ад селішча-2, на правым беразе Бярэзіны. Працягласць уздоўж берага 500 м, шыр. да 100 м. Абследаваў у 1963 Побаль.

*Літ.:* 901. *Л. Д. Побаль.*

**ШЧЫТ,** тарча, від стараж. засцерагальнага ўзбраення для прыкрыцця тулава воіна ад паражэння халоднай зброяй. Быў на ўзбраенні пехацінцаў і коннікаў да 17 ст. Ш. выраблялі майстры-шчытнікі з дрэва, скуры, прутоў, радзей з металу. Насілі яго на левай руцэ, прасунутай праз спец. раменную пятлю ці скобы. часам вешалі на шыю. У пехацінцаў Ш. мелі вял. памеры, іншы раз засланялі ўсё цела воіна, у коннікаў былі меншыя і прыкрывалі цела ад удараў халоднай рубячай зброяй. У час маршу Ш. прытарочвалі да сядла або вешалі на шыю. каб левай рукой можна было кіраваць канём. У 12—17 ст. на Беларусі існавалі Ш. рознай формы: круглыя з умбонамі, трохвугольныя, сэрца- і міндалепадобныя, складанафігурныя — тарчы, чатырохвугольныя з круглаватымі краямі і жолабам пасярэдзіне — павезы, т. зв. «котрыгалы». З 12 ст. на Ш. пачалі з'яўляцца сімвалы — зачаткі гербаў. З пачаткам выкарыстання пласціністага даспеха (гл. *Панцыр)* і развіццём агнястрэльнай зброі Ш. рабілі меншых памераў, і яны паступова сталі знікаць. Аднак у 16 ст. ў сувязі са з'яўленнем на Беларусі лёгкай кавалерыі (гусараў-«панцырных») чатырохвугольныя або круглаватыя Ш. з дрэва ці металу зноў увайшлі ва ўжытак. Апошні

тып Ш.— калкан, які прыйшоў на Беларусь з арабскага Усходу і выкарыстоўваўся ў 17 ст. Ш. быў сімвалам воінскай чэсці і перамогі. На Ш. кляліся воіны-язычнікі. Переможцы стараліся прыбіць Ш. на браме захопленага горада.

*М. А. Ткачоў.*

**ШЧЫТНАЕ,** археал. помнікі каменнага веку каля в. Шчытнае Жлобінскага р-на.

Паселішча-1 позняга мезаліту. За 3 км на З ад вёскі, на 1-й надпоплаўнай тэрасе левага бе-



**Шэсць грошаў.** Польшча: 1. Жыгімонт I Стары, 1528. ВКЛ: 2—3. Жыгімонт II Аўгуст, 1547, 1562. Рэч Паспалітая: 4—5. Зыгмунт III Ваза, 1596, 1599; 6. Уладзіслаў IV Ваза, 1635; 7—9. Ян II Казімір Ваза, літоўская чаканка 1652, 1664, польская чаканка 1661; 10—11. Ян III Сабескі, 1680, 1682; 12. Аўгуст II, 1702; 13. Аўгуст III, 1755; 14—15. Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, 1766, 1794. Прусія: 16. Фрыдрых Вільгельм I, 1684; 17. Фрыдрых III, 1698.

рага Дняпра, ва ўрочышчы Бярозавая Града. Выявіў і абследаваў у 1977 У. П. Ксяндзоў. На пл. 50 м² прасочаны культурны пласт 0,1 м. Знойдзены крамянёвыя адшчэпы, ножападобныя пласціны, нуклеусы. Датуецца 6—5-м тысячагоддзямі да н. э.

Паселішча-2 эпохі неаліту. За 3 км на З ад вёскі, за 250 м на Пд ад паселішча-1. Пл. больш за 500 м². Выявіў і абследаваў у 1977 Ксяндзоў. Культурны пласт 0,1—0,2 м. На паверхні сабраны фрагменты ляпных танкасценных гаршкоў, упрыгожаных гарызантальнымі лініямі наколаў, крамянёвыя адшчэпы, ножападобныя пласціны, скрабок, фрагмент наканечніка стралы трохвугольнай формы. Датуецца 4—3-м тысячагоддзямі да н. э.

Паселішча-3 эпохі неаліту. За 2,5 км на З ад вёскі, за 350 м на ПдУ ад стаянкі. Пл. 1000 м². Выявіў і абследаваў у 1977 Ксяндзоў. Культурны пласт 0,2 м. Знойдзены крамянёвыя ножападобныя пласціны, адшчэпы, скрабкі, наканечнікі стрэл. Датуецца 4—3-м тысячагоддзямі да н. э.

Стаянка каменнага веку. За 2,7 км на З ад вёскі, за 200 м на У ад паселішча-2. Пл. 50 м². Выявіў у 1977 Ксяндзоў. Культурны пласт 0,2 м, прасочваецца ў агаленнях. Знойдзены крамянёвыя прылады працы, нуклеусы.

*У. П. Ксяндзоў.*

**ШЫФЕР О́ЎРУЦКІ,** пірафілітавы сланец ружовага, чырвонага і фіялетавага колераў, радовішчы якога знаходзяцца каля г. Оўруч Жытомірскай вобл. (Украіна), у басейнах рэк Жэраў, Норын, Убарць, Уж. Выкарыстоўваўся з эпохі неаліту, асабліва шырока — у сярэднявеччы. Пашыраны *прасліцы,* якія выраблялі з Ш. о. ў 10—13 ст. у ваколіцах Оўруча, Кіева, Суздаля і праз бел. землі вывозілі ў Польшчу, Прыбалтыку, у паўн. Русь. На Беларусі сляды апрацоўкі Ш. о. выяўлены пры раскопках гарадзішча *Гарадзішча* (Мінскі р-н), у Мазыры (гл. *Мазырская каменярэзная майстэрня).* Прасліцы з Ш. о. часта сустракаюцца на помніках сярэднявечча, пры раскопках гарадоў (Бярэсце — 200 экз., Ваўкавыск — 224, Навагрудак — 93, Полацк — 451 экз.), некаторыя з надпісамі (Гродна, Друцк, Віцебск, Пінск). Знойдзены жорны (Бярэсце, Гомель, Давыд-Гарадок, Мазыр, Тураў), крыжыкі (Бярэсце, Мазыр, Навагрудак, Тураў), ліцейныя формы, саркафагі (Тураў). Існуе гіпотэза (В. Л. Янін), што ў 12—13 ст. прасліцы з Ш. о. выкарыстоўваліся як дробны плацежны сродак (знойдзены ў *Гараўлянскім манетна-рэчавым скарбе).*

*Літ.:* 326, 1011, 1346. *В. Б. Перхаўка.*

**ШЫХАЎ,** археал. помнікі каменнага веку каля в. Шыхаў Жлобінскага р-на.

Стаянка дзяснінскай (верхнедняпроўскай) культуры. За 500 м на Пн ад вёскі, на другой надпоплаўнай тэрасе правага берага Дняпра. Выш. над узроўнем вады 17 м. Пл. каля 5 тыс. м². Выявілі ў 1966 У. Ф. Ісаенка і І. М. Ціханенка, даследаваў 50 м² у 1977 У. П. Ксяндзоў. Культурны пласт разбураны ветравой эрозіяй.

На глыб. 1,2—1,3 м выяўлены рэшткі 2 агнішчаў, прылады працы з крэйдавага «сожскага» крэменю: сіметрычныя і асіметрычныя наканечнікі стрэл з пласцін, канцавыя скрабкі, свердлы, праколкі, скоблі і інш.

Датуецца 9—7-м тыс. да н. э.

Майстэрня. За 400 м на Пд ад вясковых могілак. Пл. 300 м². Выявіў у 1977 Ксяндзоў. У агаленнях сабраны нуклеусы, пласціны, адшчэпы.

*Літ.:* 619. *У. П. Ксяндзоў.*

**ШЭ́БРЫН,** курганны могільнік 8—10 ст. каля в. Шэбрын Брэсцкага р-на. За 400 м на ПнУ ад вёскі, на правым беразе р. Мухавец. 13 насыпаў выш. 0,6—1,2 м, дыям. 4—6 м. Вядомы з канца 19 ст., абследавала ў 1980, 1981—83, 1985—86 Т. М. Каробушкіна, у 1982 даследавала 2 курганы. Пахавальны абрад — трупаспаленне па-за курганом.

Знойдзены рэшткі драўлянай канструкцыі даўж. 80 см, шыр. 20 см. На Пд ад яе 2 прамавугольныя (80×20, 40×20) і адна круглая (дыям. 20 см) ямы, на 40 см запоўненыя вуголлем. У другім кургане на гарызонце на ўсёй плошчы попельна-вугальная пляма таўшч. 3 см, у якой знойдзена грубаляпная таўстасценная кераміка і апаленая косць чалавека.

*Літ.:* 585. *Т. М. Каробушкіна.*

**ШЭ́ЛЕГ,** шэляг, беларуская і укр. назва *саліда* ў 15—18 ст.

**ШЭ́ЛЕГ ЧЫРВО́НЫ,** адна з назваў меднага шэлега *(барацінкі)* у бел. дакументах 1660-х г.

**ШЭСЦЬ ГРО́ШАЎ** (ням. Sechsgröscher, польск. szóstak, бел. шастак), манета наміналам у 6 *грошаў,* якую выпускалі Польшча, Усх. Прусія (тэрыторыя, якая належала польскаму каралю), вольныя гарады Польшчы, ВКЛ, Рэч Паспалітая, Курляндыя, Прусія, Расія, г. Замосце (у час асады 1813).

**Польшча.** Білонныя Ш. г. *(лотавая проба* VI, *лігатурная маса* 12,36 г), чаканеныя з пераплаўленых *паўгрошаў свідніцкіх* Кракаўскім манетным дваром у 1528—29. **Усх. Прусія.** Гл. ў арт. *Манеты «земляў прускіх».* **Вольныя гарады Польшчы.** Сярэбраныя Ш. г. (проба XIV, маса 5,34 г) выпускалі Гданьскі і Эльблёнгскі манетныя двары ў 1535, 1539. **ВКЛ.** Білонныя і сярэбраныя Ш. г. чаканіў у 1547 па польскай манетнай стапе (проба XI $^{1}/_{5}$, маса 5,30 г) і ў 1547, 1562 з пераплаўленых паўгрошаў свідніцкіх (проба VI, маса 12,36 г) Віленскі манетны двор. **Рэч Паспалітая.** Білонныя і сярэбраныя Ш. г. з 1581 (проба XIII $^{1}/_{2}$, маса 4,75 г), з 1623 (проба VII $^{1}/_{4}$, маса 3,98 г), з 1650 (проба XIV, маса 1,87 г), з 1656 (проба VI, маса 3,85 г), з 1677 (проба VI, маса 3,36 г), з 1753 (проба V, маса 4,32 г), з 1794 (проба III $^{1}/_{2}$, маса 1,59 г). Эмісіі ВКЛ чаканілі *Віленскі манетны двор* у 1581, 1585, 1652, 1664—66, 1679 і *Гродзенскі манетны двор* у 1706—07. Эмісіі Польшчы (Кароны) чаканілі Быдгашчанскі манетны двор — 1596, 1601, 1633, 1650, 1660—65, 1677—87; *Варшаўскі манетны двор* — 1794—95; Усхоўскі манетны двор — 1595, 1599—1603, 1650; Кракаўскі манетны двор — 1623—27, 1656—57 (шведская акупацыя), 1657—68, 1679—85; Люблінскі манетны двор — 1595—96; Мальбаркскі манетны двор — 1596, 1599—1601; Пазнанскі манетны двор — 1651, 1661—62; Гданьскі манетны двор — 1760—63; Торуньскі манетны двор — 1761—63, 1765; Эльблёнгскі манетны двор — 1658—59 (шведская акупацыя), 1762—63 (адзнакі двароў гл. ў арт. *Манетныя двары Рэчы Паспалітай);* Лейпцыгскі манетны двор — 1698, 1702, 1704, 1706 (адзнакі двара гл. ў арт. *Манетныя двары Саксоніі).* **Расія.** Гл. ў арт. *Манеты расійскія для Прусіі, Шустак.* **Замосце.** У час асады горада ў 1813 рус. войскамі выпушчаны Ш. г. у ліку *манет асадных.*

*Літ.:* 1671, 1682, 1695, 1735.

*В. Н. Рабцэвіч.*



# Э

**ЭАЛІ́ТЫ** (грэч. eos зара + lithos камень), крамянёвыя сколы з вострымі краямі, шчарбінамі, якія нагадваюць сляды апрацоўкі ці карыстання імі першабытным чалавекам. Сустракаюцца ў даплейстацэнавых і раннеплейстацэнавых адкладаннях.

Цікавасць да Э. узнікла ў 1860-я г. ў сувязі са знаходкамі расшчэпленых крамянёў у мясцовасці Тэнэ ў Францыі, якія многімі вучонымі былі прыняты за самыя стараж. прылады працы. Пазнейшыя даследаванні паказалі, што Э. ўтварыліся ў выніку ўздзеяння сіл прыроды. Пэўныя адзнакі апрацоўкі крэменю першабытным чалавекам — правільнасць агранкі вонкавай паверхні пласціны, ракавістая хвалістасць, якая сыходзіцца да кропкі ўдару на ніжняй адбіўной паверхні, наяўнасць ударнага бугарка і ўдарнай пляцоўкі на крэмені дазваляюць беспамылкова адрозніваць Э. ад артэфактаў. *В. Я. Кудрашоў.*

**ЭКАЛО́ГІЯ** (грэч. oikos дом, жыллё, месцазнаходжанне + logos вучэнне), навука пра ўзаемаадносіны арганіз-

маў і іх сукупнасцей (папуляцый, біяцэнозаў і г. д.) паміж сабой і з навакольным асяроддзем. З'яўляецца тэарэтычнай асновай сістэмы аховы прыроды, якая мае на мэце падтрыманне прыродна-антрапагеннай раўнавагі. Агульная Э. падзяляецца на экалогію асобін, папуляцый, відаў, згуртаванняў; прыватная Э. ўключае экалогію жывёл, раслін, грыбоў і мікраарганізмаў. Развіваюцца і інш. напрамкі, звязаныя з рознымі праблемамі ўзаемаадносін чалавека з навакольным асяроддзем (біясацыягенез). Супольнасць палеагеаграфіі і археалогіі з'яўляецца асновай новага навук. кірунку — Э. чалавека мінулых археал. эпох (палеаэкалогія). Адна з задач гэтага кірунку — рэканструяваць гісторыю сацыяльнай і біялагічнай адаптацыі чалавечага грамадства да змен навакольнага асяроддзя.

*Літ.:* 947а, 948. *А. Г. Калечыц.*

**ЭКІМА́НСКІЯ КРЫЖЫ,** высечаныя з каменю крыжы ў в. Экімань Полацкага р-на і ў бліжэйшых вёсках. У пач. 20 ст. існавала 4 крыжы (не захаваліся). Адзін крыж знаходзіўся ў в. Экімань на пагорку, каля царквы св. Георгія. Крыж высечаны з шэрага гранітнага валуна, выш. 1,46 м, шыр. 0,25 м. Другі крыж стаяў на старых вясковых могілках, куды перанесены з іншага месца ў пач. 20 ст. Высечаны з шэрага гранітнага валуна, выш. 1,2 м, шыр. 0,8 м. Трэці крыж — каля чыг. ст. Ксты, на скрыжаванні шляхоў. Выш. крыжа 1,4 м, шыр.— 1,2 м. На месцы, дзе ён стаяў, знойдзены чалавечыя косці і чарапы. На крыжы быў надпіс. Чацвёрты крыж стаяў у в. Сітна, у вярхоўі р. Палата, на беразе воз. Сітна, каля чыгункі Віцебск—Полацк. Высечаны з чырвонага гранітнага валуна, быў моцна пашкоджаны, са слядамі надпісу.

*Літ.:* 237, 477, 813. *Л. У. Дучыц.*

**ЭКІМА́НЬ,** курганны могільнік крывічоў, каля в. Экімань Полацкага р-на. За 3 км на ПдУ ад вёскі, ва ўрочышчы Банонь. Захаваліся 30 курганоў выш. 0,4—1 м, дыям. 4—8 м, адзін курган выш. 2 м, дыям. 10 м. Выявіў у 1965, даследаваў 7 курганоў у 1967 Г. В. Штыхаў. Пахавальны абрад — трупаспаленне на месцы. У 2 курганах пахаванняў не было. У адным сярод перапаленых касцей былі рэшткі ганчарнага гаршка, жал. нож, ключ і спражка. У вял. кургане, акрамя рэшткаў трупаспалення, знойдзены цуглі, жал. дэталі бізуна, рэшткі кальчугі, абломак наканечніка стралы, жал. спражка і невял. гліняны гаршчок. Магчыма, у кургане пахаваны дружыннік. Датуецца 2-й пал. 10 — пач. 11 ст.

*Літ.:* 1332. *Г. В. Штыхаў.*

**ЭКСПЕРЫМЕ́НТ АРХЕАЛАГІ́ЧНЫ,** спосаб вывучэння археал. з'яў і стараж. тэхналогіі з дапамогай навук. доследаў, якія праводзяцца эксперыментатарамі ва ўмовах, максімальна набліжаных да рэальных. З яго дапамогай атрымліваюць новую інфармацыю пра археал. аб'екты і правяраюць правільнасць існуючых вывадаў і заключэнняў. Першыя мэтанакіраваныя Э. а. праводзіў у 1930—50-я г. С. А. Сямёнаў, выяўляючы ўнутраныя заканамернасці паміж функцыяй, формай прылад працы і дзейнасцю чалавека, паміж прыладамі працы і вытворчымі працэсамі. У 1964—66 ён правёў доследы на Краснасельскіх крэменездабыўных шахтах (гл. *Краснасельскі археалагічны комплекс),* вынікі якіх паказалі, што неалітычнаму чалавеку патрэбна было 7—8 гадзін, каб выкапаць 1 $м^3$ крэйды. А калі дапусціць, што адзін чалавек працаваў на асобнай пляцоўцы, то шахты накшталт Краснасельскіх маглі быць выкапаны за 2—3 летнія сезоны. Сучасныя Э. а. звязаны з вырабам прылад працы, ацэнкай іх эфектыўнасці, з поўным цыклам вытв. працэсаў па атрыманні прадуктаў харчавання, апрацоўцы каменю, металаў, драўніны, скуры, косці і інш., з рэканструкцыяй жылых, гасп., абарончых збудаванняў, з духоўнымі запатрабаваннямі (тэхніка жывапісу, скульптурныя прыёмы, музыка). У 1972—79 М. Ф. Гурын праводзіў Э. а. з мэтай больш глыбокага вывучэння працэсаў, якія адбываліся пры металургіі жалеза, пры прамым аднаўленні яго з балотных і лугавых руд. Знаходкі крыц з высокай канцэнтрацыяй вугляроду прывялі да пастаноўкі Э. а. для частковага або поўнага абезвугляроджвання, у выніку чаго крохкі метал набыў дастатковую пластычнасць. Каб мець уяўленне аб характэрных асаблівасцях зварных швоў, якія атрымліваліся пры розных рэжымах і спосабах кавальскай зваркі, былі праведзены Э. а. ў вясковай кузні для злучэння кавалкаў сталі і жалеза з выкарыстаннем флюсаў і без іх. Металаграфічны аналіз злучэнняў паказаў, што швы пры зварцы без флюсу маюць характэрныя асаблівасці. Гэтыя вынікі вельмі важныя для параўнання са зварнымі швамі ў стараж. вырабах з жалеза і сталі. Характар дыфузіі вугляроду са стальных частак камбінаваных вырабаў у жалезныя быў гал. мэтай Э. а., праведзенага для таго, каб высветліць размеркаванне вугляроду ў нажы, які трапіў у агонь у час крэмацыі нябожчыка ці пабываў у пажары. Працягласць знаходжання прадмета ў агні значна змяняла яго першапачатковую структуру. Эксплуатацыйныя якасці нажа, зробленага па трохпалоснай тэхналагічнай схеме, якая практыкавалася ў 10—11 ст., вывучаліся шляхам шматгадовых выпрабаванняў у розных рэжымах работы.

*Літ.:* 276, 741, 1070, 1073.
*М. Ф. Гурын, В. Я. Кудрашоў.*

**ЭМА́ЛЬ** (франц. email), тэхніка аздаблення металічных вырабаў нанясеннем тонкага слою афарбаванай легкаплаўкай шкламасы. Паводле спосабу нанясення Э. былі выемчатыя (калі запаўняліся паглыбленні ў метале) і перагародчатыя (калі запаўнялі прамежкі паміж металічнымі палоскамі, напаянымі рабром на металічную паверхню). Выемчатыя Э. вядомы на тэр. Беларусі з 2—5 ст. Бронзавыя і залачоныя фібулы, накладкі, лунніцы з познакаляровымі выямчатымі Э. знойдзены ў вёсках Адаменка Быхаўскага р-на (гл. *Абідзенскія эмалі*), *Тайманава,* Альхоўка Клічаўскага, Бакшаны Міёрскага, Латыгаўка Талачынскага, Мяжаны Браслаўскага, Рыленкі Сенненскага р-наў, г. Слуцк, г. п. *Лукомль,* археал. помніках *Дзям'янкі* Добрушскага, *Красны Бор* Лагойскага, *Малышкі* Вілескага р-наў. На тэр. Беларусі знойдзены 2 двайныя ланцугі з падвескамі і накладкамі, аздобленымі выемчатымі Э. Э. чырвонага, белага, чорнага, жоўтага, блакітнага, зялёнага, аранжавага колераў у 2—6 ст. упрыгожвалі, акрамя фібул, падвесак, лунніц, накладкі на мужчынскіх металічных паясах, конскую збрую, у 9—12 ст.— нацельныя крыжы — энкалпіёны. Перагародчатыя Э. на Беларусі вядомы з 12 ст. У Полацку знойдзена мініяцюрная крутарогая лунніца 12 ст., аздобленая перагародчатай Э. сіняга колеру, фрагмент залатога ўпрыгожання з Э. сіняга, белага і чырвонага колераў, якія ўтвараюць бел. арнамент. Шэдэўрам бел. ювелірнага мастацтва з'яўляецца крыж Ефрасінні Полацкай (1161). Перагародчатымі Э. з 12 ст. аздаблялі жаночыя ўпрыгожанні (колты з в. *Вішчын* Рагачоўскага р-на), з 17—18 ст.— літургічны посуд, аправы кніг, напрастольныя, нацельныя крыжы і інш.

*Літ.:* 580, 727, 1131, 1398.
*Т. С. Скрыпчанка.*

**ЭМІ́СІЯ** (лац. emissio выданне), выпуск у абарачэнне грашовых знакаў. Аб'ёмы і тэрміны Э. могуць не супадаць з аб'ёмам і тэрмінамі грашовай вытворчасці. Напр., запланаваны тыраж медных літ. і польскіх солідаў *(барацінак)* 1659—66 на 180 млн. экз. у выпуску завышаны ў некалькі разоў; манеты РСФСР 1921—23 выпушчаны ў абарачэнне ў 1924.

**ЭМІТЭ́НТ** (ад лац. emittere выпускаць), юрыдычная асоба, ад імя якой выконваецца вытворчасць і *эмісія* грошай.

**ЭНЕАЛІ́Т** (лац. aeneus медны + + грэч. lithos камень), медна-каменны век, час, калі побач з меднымі *прыладамі працы* выкарыстоўваліся і каменныя. Адпавядае

тэрмінам «халкаліт» (грэч. chalkos медзь + lithos камень) і «медны век». У археалогіі ў некаторых выпадках энеалітычны час уключаецца ў *неаліт* або разглядаецца як пераходны перыяд ад неаліту да бронзавага веку. Лічыцца, што ў лясной зоне роля энеалітычнага перыяду нязначная. У стараж. гісторыі Беларусі важнае значэнне маюць энеалітычныя *лейкападобных кубкаў культура* (сярэдзіна 4-га — сярэдзіна 3-га тысячагоддзя да н. э.) і *шарападобных амфар культура* (сярэдзіна — 2-я пал. 3-га тысячагоддзя да н. э.). Першая аказала моцны ўплыў на культурнае і, магчыма, этнічнае развіццё паўд.-зах. Беларусі. Помнікі ўсх. варыянта культуры шарападобных амфар вядомы на З Беларусі.

*Літ.:* 1048, 1383.

*М. М. Крывальцэвіч.*

**ЭНКАЛПІЁН,** металічны (найчасцей бронзавы) двухстворкавы нагрудны крыж-складзень, выкананы ў тэхніцы ліцця. Памеры ад 2,2×4 да 7×12 см. Э. маюць вушка-агалоўе, канцы крыжа бываюць закругленыя, расшыраныя, прамыя, з кроплепадобнымі выступамі ці крыжападобныя. Звычайна на вонкавым баку ў сяродкрыжжы — рэльефная ці схематычная выява Хрыста, на адваротным — Маці Боскай з дзіцем, на канцах крыжа — выява святых (рэльефныя ці графічныя), часта маюць надпісы. Вядомы Э. рэльефныя, рэльефна-гравіраваныя і гравіраваныя (у асноўным з чарненнем), некаторыя аздоблены эмалямі, інкрустацыяй серабром і інш. Вядомы ў еўрап. краінах у 10—15 ст. Большасць Э. у Стараж. Русі выраблялася ў Кіеве. На Беларусі Э. 11—13 ст. знойдзены пры раскопках у Полацку, Мінску, Друцку, Мсціславе, Віцебску, Магілёве, Гродне; на замчышчы каля в. Дрысвяты, на гарадзішчы Маскавічы Браслаўскага р-на, у кургане каля в. Курганне Жлобінскага р-на і інш.

*Літ.:* 43, 347.

*В. М. Ляўко, Л. У. Дучыц.*

**ЭПІГРА́ФІКА** (грэч. epigraphē надпіс), дапаможная гіст. і філалагічная дысцыпліна, якая вывучае змест і формы старадаўніх надпісаў, нанесеных на рэчы (пячаткі, абразкі, прасліцы, манеты, званы, мячы, клінкі і інш.) або натуральныя ці штучныя паверхні (камяні, скалы, каменныя крыжы, сцены пабудоў і інш.). Э. як навука ўзнікла ў эпоху Адраджэння, яе методыка распрацавана ў 18—19 ст. Асноўны метад Э.— узаемнае вывучэнне прадмета і надпісу на ім. Неабходнай умовай даследавання эпіграфічнага помніка з'яўляецца палеаграфічны і гіст. аналіз. Значную цікавасць для Э. ўяўляюць сабой *графіці.* Найб. вядомыя ўсх.-слав. помнікі Э.: надпісы 11—14 ст. на сценах Наўгародскага Сафійскага сабора, 11—17 ст. на кіеўскіх культавых пабудовах. На Беларусі найб. пашыраны надпісы кірыліцай і лацінкай, зрэдку сустракаюцца надпісы арабскім, яўрэйскім пісьмом. Найбольш вядомыя надпісы 11 ст. ў *Полацкім Сафійскім саборы* (на плінфе і на камені пры ўваходзе), 12 ст. на сценах *Полацкай Спаскай царквы,* 13 ст. на сценах *Віцебскай царквы Звеставання,* 14—19 ст. у Полацкай Спаскай царкве, а таксама на крыжы Ефрасінні Полацкай, *Барысавых камянях* і *Рагвалодавым камені* (усе 12 ст.). Значную частку эпіграфічных помнікаў Беларусі складае археал. матэрыял (у асноўным 11—13 ст.): каменныя і медныя *абразкі, пячаткі, амфары, грабеньчыкі,* сярэбраныя *зліткі плацежныя,* косці для гульні (гл. арт. *Біта), косці з надпісамі і малюнкамі,* шыферныя *прасліцы,* ліцейныя формы. Надпісы найчасцей пазначаюць імя ўладальніка або майстра, а на абразках — імёны святых.

*Літ.:* 177, 344, 839, 848, 1006, 1012.

*Л. У. Дучыц.*

**ЭПІПАЛЕАЛІ́Т** (ад грэч. epi на, над, пасля + *палеаліт*), вылучаецца некаторымі даследчыкамі як археал. эпоха, якая ідзе за палеалітам і адпавядае ранняму *мезаліту.* Датуецца пачаткам геалагічнай сучаснасці. У тэхніцы і культуры Э. яшчэ выразна выяўляюцца палеалітычныя рысы.

**ЭРМІТА́Ж** (франц. ermitage ціхі куток), дзяржаўны мастацкі і культурна-гіст. музей у Санкт-Пецярбургу, адзін з буйнейшых музеяў свету.

Займае будынкі Зімняга палаца, Малога Эрмітажа, будынак тэатра, Старога і Новага Эрмітажа, больш за 350 залаў. Засн. ў 1764. Былі сабраны карціны, калекцыі гравюр і малюнкаў, антычных старажытнасцей, зах.-еўрап. прыкладнога мастацтва, розных камянёў, манет і медалёў, кніг. У 19 ст. пачалі паступаць археал. матэрыялы з раскопак. Э. складаецца з 8 аддзелаў: першабытнай культуры, антычнага свету, культуры народаў Усходу, гісторыі рускай культуры, нумізматыкі, зах.-еўрап. мастацтва, навукова-асветнага, рэстаўрацыйнага.

У фондах Э. знаходзяцца матэрыялы з раскопак могільніка *Велямічы,* Люцынскага могільніка (Латвія), *Брэсцкага бескурганнага могільніка,* Усвят (стараж. горад Полацкай зямлі, цяпер Пскоўская вобл.); матэрыялы з даследаваных у



1



2



3

Энкалпіёны 11—12 ст. з курганнага могільніка Курганне (1) і 12 ст. з Гомеля (2, 3).

1915 Ю. В. Шавельскім кургановў у б. Мінскай губ. (Бяларучы і Маркаўшчына Лагойскага р-на, Абрыцкая Слабада, Каўшова, Паперня Мінскага р-на) і інш. У раздзеле нумізматыкі знаходзяцца манеты і рэчы са скарбаў, знойдзеных на Беларусі, у т. л. са скарбаў з вёсак Ахрэмцы Верхнядзвінскага, Відзскі Двор Браслаўскага, Краснае Міёрскага, Лецкаўшчына, Новы Двор Мінскага р-наў, г. Пінска, *Парэцкага манетнага скарбу, Стражавіцкіх манетна-рэчавых скарбаў* і інш.

*Літ.:* 322, 1320.

*У. М. Мілюцін, Г. В. Штыхаў.*

**ЭСЬМО́НЫ**, курганны могільнік каля в. Эсьмоны Бялыніцкага р-на. На паўн.-зах. ускраіне вёскі, на правым беразе р. Аслік (Ослеўка). Вядомы з 1863. Абследавалі ў 1889—90 М. П. Авенарыус, у 1969 Л. В. Аляксееў і Я. Р. Рыер. 44 насыпы выш. 0,8—1,5 м, дыям. 4—8 м, вяршыні асобных абкладзены камянямі. Раскапана 5 насыпаў. Пахавальны абрад (з улікам работ Авенарыуса) — трупапалажэнне ў насыпах, на гарызонце, у ямах, у дамавінах-церамах. Пахаванні адзіночныя і парныя. Асн. колькасць касцякоў у выцягнутым становішчы, ёсць і ў сядзячым. Пахавальны інвентар: гліняны посуд, бронзавыя і пасярэбраныя скроневыя кольцы (у т. л. замацаваныя на палосках скуры), бронзавыя і шкляныя пацеркі, сярод іх бронзавыя каркасныя і пласціністыя з сярэбранай зерню, так званыя дрыгавіцкія. Могільнік датуецца канцом 10 — пач. 13 ст.

*Літ.:* 967, 972, 1018. *Я. Р. Рыер.*

**ЭТНАВЫЗНАЧА́ЛЬНЫЯ РЭ́ЧЫ**, вырабы, характэрныя для пэўнага *этнасу.* На Беларусі гэта пэўныя тыпы жаночых упрыгожанняў *крывічоў, дрыгавічоў, радзімічаў.* Упершыню на Э. р. летапісных усх.-слав. плямён звярнуў увагу А. А. *Спіцын* у канцы 19 ст. Яго назіранні ўдакладнілі і дапоўнілі сав. вучоныя. Э. р. полацкіх і смаленскіх крывічоў — бранзалетападобныя драцяныя скроневыя кольцы з завязанымі канцамі; дрыгавічоў — буйныя медныя або сярэбраныя зярнёныя пацеркі з напаянымі на іх паверхню сярэбранымі шарыкамі; радзімічаў — бронзавыя або сярэбраныя сяміпрамянёвыя і сямілапчатыя скроневыя кольцы, біэліпсоідныя, язычковыя, пятлістыя, гронкавыя падвескі, пласціністыя грыўні. Знаходкі Э. р. дапамагаюць удакладніць граніцы *этнакультурных абласцей,* іх узаемасувязь, прасачыць *этнічныя працэсы*

*Літ.:* 1052. *У. У. Багамольнікаў.*

**ЭТНАКУЛЬТУ́РНАЯ ВО́БЛАСЦЬ,** тэрыторыя з пэўным пада бенствам *археалагічных культур,* якое выяўляецца ў этнічнай блізкасці іх носьбітаў — плямён і народнасцей. Тэрмін увёў у 1959 А. А. Фармозаў. Панящце Э. в. блізкае да тэрмінаў «культурная правінцыя», «культурна-гістарычная вобласць» (ням. Kreis круг, кола; англ. sphere сфера, зона; франц. l'aire culturelle et historique культурна-гістарычны арэал). Э. в. уяўляе сабой вял. рэгіён, у якім на працягу доўгага прамежку часу захоўвалася падабенства матэрыяльнай культуры паміж некалькімі археал. культурамі або групамі незалежна ад таго, існавалі яны адначасова ці змянялі адна адну. У залежнасці ад ступені падабенства вылучаюцца культуры, якія проста суіснавалі, суседскія або наступныя па часе і генетычна звязаныя (роднасныя, спадчынныя). Э.



**Энкалпіён** 12 ст. з в. Лоск Валожынскага р-на.



**Энкалпіён.** Гродна, 12 ст.

в. аб'ядноўвае апошнія. Астатнія панаццці (круг, сфера) фактычна абазначаюць арэалы пэўных культурных з'яў, дасягненняў і ўплываў, распаўсюджання тоесных рэчаў і звычаяў. Некаторыя з іх маглі развіцца ў розных культур як вынік роднасці па паходжанні (традыцыйныя), узнікнення ў аднолькавых сац.-эканам. умовах (стадыяльныя, канвергентныя), запазычанасці ў суседзяў (культурная дыфузія).

На думку некаторых даследчыкаў, у першабытным грамадстве існавалі культурна-гіст. агульнасці, якія аб'ядноўвалі некалькі падобных (блізкіх) археал. культур, груп (*ямкава-грабеньчатай керамікі культура* ў Волга-Окскім басейне). Тэр. Беларусі ў эпоху неаліту ўваходзіла ў Э. в. плямён з грабеньчата-накольчатай керамікай (*днепра-данецкая культура, нёманская культура, нарвенская культура, верхнеднепроўская культура*), у эпоху бронзавага веку — са шнуравой керамікай (сярэднедняпроўская культура, *шнуравой керамікі Палесся культура,* вісла-нёманская культура, *паўночнабеларуская культура).* Паўн. Прычарнамор'е, стэпы і лесастэпы Украіны былі ў складзе ямнай Э. в.— прарадзімы індаеўрапейцаў. У бронзавым веку склалася Э. в. *палёў пахавальных урнаў культуры,* якая ахапіла Цэнтр. Еўропу і зах. раёны Беларусі. Плямёны гэтага арэала лічацца непасрэднымі продкамі еўрапейцаў. Разам з тым пытанне адпаведнасці Э. в. і археал. культур пэўным этнасам або іх групам канчаткова не вырашана.

*Літ.:* 798, 1254. *У. Ф. Ісаенка.*

**Э́ТНАС** (грэч. ethnos племя, народ), этнічная супольнасць, устойлівая еднасць людзей, якая склалася гістарычна на пэўнай абмежаванай тэрыторыі. У любую эпоху Э. (*род, племя,* народнасць, нацыя) можа існаваць запар сотні гадоў на працягу жыцця дзесяткаў пакаленняў. Э. узнікае ў выніку ўзаемадзеянняў групы фактараў, значэнне якіх змяняецца ад адной эпохі да другой. Сярод асн. яго вызначальных фактараў — адносная агульнасць паходжання, сумесная гасп. дзейнасць, наяўнасць агульнай мовы, падобных традыцый побыту, культуры, псіхічнага складу, а таксама існаванне ўяўлення пра агульнасць гіст. лёсу і нацыянальнай (племяннай, народнай) свядомасці, пра адзінства паходжання, гісторыі, генафонду і экалогіі, разумення свайго месца ў свеце, чулых адносін да нар. традыцый і культурнай спадчыны (наладжаная сістэма перадачы інфармацыі, вопыту наступным пакаленням).

Э. узнікае і развіваецца разам са сваёй эканам. базай, матэрыяльнымі ўмовамі існавання і мовай, якая аб'ядноўвае людзей у гасп. дзейнасці і штодзённым жыцці. Еднасць замацоўваецца ў свой час палітычна і, наадварот, палітычнае аб'яднанне ў адну дзяржаву можа садзейнічаць утварэнню Э., але тады, калі для гэтага існуюць усе пералічаныя вышэй фактары. Сацыяльная няроўнасць, што развіваецца ў грамадстве (унутры Э.), не павінна выходзіць за пэўныя рамкі. Разбурэнне грамадства таго ці інш. тыпу, пераход да новай сац.-эканам. фармацыі ў большасці выпадкаў выклікаюць не гібель, а перабудову Э. Аднак гэтага нельга сцвярджаць пра малыя Э. Да знікнення Э. маглі прыводзіць буйныя геалагічныя катаст-

рофы, эпідэміі, татальныя ваенныя разгромы, якія суправаджаліся генацыдам, і інш. Э. або яго адасобленыя групы, трапіўшы ў асяроддзе іншага, пануючага Э. з больш высокай ступенню развіцця, могуць згубіць свае вызначальныя прыкметы поўнасцю (асіміляцыя) ці часткова. У гісторыі ёсць шмат прыкладаў знікнення Э. або змянення іх да непазнавальнасці. Уяўленне пра еднасць супляменнікаў, суайчыннікаў дапаўняецца ўсведамленнем свайго адасаблення ад вакольнага свету, іншых Э., што замацоўваецца этнонімам — назвай (саманазвай) племя, народа, нацыі. Наяўнасць этноніма з'яўляецца прыкметай развітой самасвядомасці, без якой, як і без мовы, Э. не існуе. Знікненне Э. суправаджаецца крахам усіх сац. яго структур, а не наадварот. Э. беларусаў (бел. народнасці) склаўся да 15—16 ст. у выніку працяглага развіцця ўсх.-слав. плямён. Археал. даследаванні сведчаць, што паўд. частку Беларусі насялялі стараж. славяне *пражскай культуры* (тыпу *Карчак)* і інш. Мясц. балцкія плямёны спачатку на Палессі, потым далей на Пн былі або цалкам асімляваны, або некаторы час знаходзіліся ў складзе мяшаных балта-слав. груп (*банцараўская культура*). У выніку далейшага рассялення славян і міжэтнічнага ўзаемадзеяння з тубыльцамі да 9—10 ст. на тэр. Беларусі ўтварыліся племянныя саюзы (і княжанні) крывічоў, дрыгавічоў, радзімічаў і інш. Мяркуюць, што крывічы паходзяць з зах.-слав. вобласці, дрыгавічы — ад дулебаў (валынян), радзімічы прыйшлі на левабярэжжа Дняпра з Паднястроўя. Сацыяльна-эканам. развіццё племянных Э. прывяло да пашырэння дзяржаваўтваральнага працэсу. На наступным этапе ўзнікла стараж.-рус. дзяржава *Кіеўская Русь* (умоўны год заснавання 862). Адноснае (палітычнае) адзінства пры амаль поўнай адсутнасці гасп. асновы захоўвалася менш за стагоддзе (толькі ў часы княжання Уладзіміра і Яраслава, 980—1054), што было недастаткова для фарміравання гіпатэтычнай стараж.-рус. народнасці. Полацкае княства ў ліку першых адзялілася ад Кіева, а з 1132 і ўся «Зямля Руская» распалася на 15 княстваў (адпаведна б. племяннному падзелу). Гэты працэс адлюстраваў этап узнікнення асобных вытворчых абласцей і мясц. рынкаў — асновы будучай кансалідацыі. Перыяд існавання стараж.-рус. дзяржавы з'яўляецца этапам стварэння перадумоў для фарміравання ўсх.-слав. народнасцей, уяўляе сабой полацкі этап у гісторыі Э. беларусаў. Сярод такіх умоў — адзінае веравызнанне і царкоўна-слав. літаратурная мова. Апошнія этапы фарміравання Э. беларусаў прыпадаюць на 1250—1600, калі землі Беларусі апынуліся ў складзе ВКЛ. Працэс феад. драблення быў спынены і змяніўся на аб'яднаўчы. Акрэслілася агульная этнічная тэрыторыя ад Прыпяцкага Палесся да Паазер'я, ад Зах. Буга і Нёмана да зямель, якія падступалі да Смаленска, Бранска і Чарнігава. З Пд і У гэты абшар быў абмежаваны ўладаннямі Залатой Арды ў выніку мангола-татарскага нашэсця. Утварылася адзіная этнаэканам. прастора. Узмацненне гасп. і культурных сувязей, рост на адзначанай тэрыторыі колькасці гарадоў і мястэчак асабліва ў 15—16 ст. садзейнічалі збліжэнню асобных этнічных і сац. груп, распаўсюджанню агульнай мовы. Бел. мова вылучылася з усх.-славянскіх дзякуючы захаванню балцкага субстрату, склалася на аснове паўн.-ўсходняга, відаць, крывіцкага дыялекту. Яна ўваходзіць у слав. групу індаеўрап. моўнай сям'і і з усіх усх.-слав. моў захавала найб. старадаўнія элементы. Гэта тычыцца і нар. культуры. Пасля 1140—70 звесткі пра б. плямёны не сустракаюцца. У 19 ст. пахавальныя абрад і інвентар згубілі плямянныя асаблівасці. Былі страчаны, верагодна, многія вызначальныя рысы звычаяў, абрадаў, традыцый і культуры б. плямён. Тым не менш, бел. культура атрымала шмат іх у спадчыну (вясельны абрад з караваем, святочныя рытуалы, міфалагізаваныя паданні і казкі, тыпы арнаментацыі на вопратцы, рэчах побыту і інш.). У 15—16 ст. назва «Белая Русь» замацоўвалася за бел. землямі, беларусы называлі сябе то «беларусцамі», то «ліцвінамі». У параўнанні з мовай яшчэ больш устойлівымі з'яўляюцца антрапалагічныя тыпы. Паводле іх, Э. беларусаў адносіцца да вял. еўрапеоіднай расы — яе ўсх. адгалінавання, беламорска-балтыйскай або малой усх.-балтыйскай расы на Пн (дняпроўскі тып) і ўсх.-еўрап. варыянта малой міжземнаморскай расы на ПдЗ і Пд (палескі тып). Прадстаўнікі дняпроўскага тыпу амаль не адрозніваюцца ад сваіх суседзяў балтаў або фіна-ўграў — светлавалосыя і светлавокія, сярэдняга росту, пераважна круглагаловыя, з сярэднешырокім нізкім тварам, увагнутай спінкай носа (таксама сустракаюцца доўгагаловыя і шыракатварыя). Палескі тып характарызуецца цьмяным колерам валасоў і вачэй, вузкім тварам, грацыёзным целаскладам, выступаючым носам. Гэты тып асабліва распаўсюджаны сярод украінцаў. Паміж абодвума тыпамі існуе шэраг пераходаў, што сведчыць пра пачатак яшчэ ў старажытнасці шлюбных адносін, якія перакрыжоўваліся, і ўсталяванне пэўнага антрапалагічнага адзінства. З пэўнымі агаворкамі можна сцвярджаць, што беларусы ў асноўным з'яўляюцца славянізаванымі балтамі. Уяўленні пра агульны гіст. лёс «тутэйшага» насельніцтва, прыналежнасць яго да аднаго народа, пра ўзрастанне яго самасвядомасці ўзніклі і ўзмацніліся на завяршальным («літоўскім») этапе фарміравання Э. беларусаў.

*Літ.:* 156. *У. Ф. Ісаенка.*

**ЭТНІ́ЧНЫЯ ПРАЦЭ́СЫ,** сукупнасць усіх змяненняў *этнасу* або яго асобных частак; адна з асн. катэгорый сучаснай этнаграфічнай навукі. Тэрмін уведзены ў пач. 1960-х г. Тэорыя Э. п. распрацавана В. І. Казловым і Ю. У. Брамлеем. Паводле яе Э. п. падзяляюцца на трансфармацыйныя і эвалюцыйныя, аб'яднальныя і раз'яднальныя. Да трансфармацыйных адносяцца працэсы, якія выклікаюць змену этнічнай самасвядомасці і, адпаведна, этнічнай прыналежнасці пэўных груп людзей. Усе астатнія працэсы, развіццё якіх не закранае цэласнасці этнічнай супольнасці,— этнаэвалюцыйныя. Аб'яднальныя Э. п. уключаюць працэсы кансалідацыі (аб'яднанне некалькіх роднасных груп у этнічную супольнасць), асіміляцыі (прыяднанне аднаго народа ці групы да другога шляхам знішчэння яго мовы, культуры і інш. этнічных прыкмет), інтэграцыі (збліжэнне некалькіх этнасаў) і міксацыі (зліццё некалькіх няроднасных народаў аднолькавай расавай прыналежнасці). Да раз'яднальных Э. п. адносяць этнічную дывергенцыю 2 тыпаў — парцыяцыю (знікненне этнасу ў выніку падзелу на некалькі новых) і сепарацыю (утварэнне новага народа ў сувязі з аддзяленнем часткі нейкага этнасу). Аб'яднальныя Э. п. могуць мець як трансфармацыйны (этнагенетычная кансалідацыя і міксацыя), так і эвалюцыйны (унутрыэтнічная кансалідацыя, міжэтнічная інтэграцыя) характар, раз'яднальныя працэсы — пераважна трансфармацыйныя. Пры гэтым этнічная асіміляцыя можа быць адначасова і трансфармацыйнай (для асіміляванага этнасу), і эвалюцыйнай (для этнасу, які асімілюе). Характар, тэмпы і асаблівасці развіцця Э. п. залежаць ад комплексу разнастайных фактараў. На дынаміку этнічнага развіцця народаў у найб. ступені ўплываюць пазаэтнічныя фактары — сац.-эканамічны, дзяржаўны, палітычны, канфесіянальны, дэмаграфічны, тэрытарыяльны, прыродна-геаграфічны і інш. Уздзеянне ўласна этнічных фактараў — этнічнай сітуацыі, ступені моўнай і культурна-бытавой роднасці этнасаў, наяўнасці этнічных стэрэатыпаў — найб. адчувальна ў развіцці працэсаў міжэтнічнай інтэграцыі, асіміляцыі, міксацыі. У дакласавых і раннекласавых грамадствах асн. кірунак этнасацыяльнага развіцця вызначалі працэсы этнічнай дывергенцыі. Масавыя міграцыі гэтага перыяду забяспечвалі рассяленне людзей па зямным шары і ўтварэнне новых народаў. Пры гэтым этнагенез новых супольнасцей часта быў выкліканы асіміляцыяй мігрантамі карэннага насельніцтва, або наадварот. Працэсы этнічнай дывергенцыі парцыяцыйнага тыпу мелі месца на Беларусі ў 3—2-м тысячагоддзях да н. э., калі яе тэрыторыя ўвайшла ў арэал рассялення індаеўрапейцаў, а таксама ў перыяд слав. каланізацыі ў 7—9 ст. Асіміляцыя слав. плямёнамі стараж. балцкага насельніцтва адыграла значную ролю ва ўтварэнні асобнага этнасу — беларусаў.

*Літ.:* 155,387. *П. У. Царашковіч.*

# Ю

**Ю́ДЗІНАВА,** верхнепалеалітычнае паселішча каля в. Юдзінава Пагарскага р-на Бранскай вобл. Размешчана ў лёсападобных адкладаннях

2-й надпоплаўнай тэрасы правага берага р. Судасць (правы прыток Дзясны) на паўд.-ўсх. ускраіне вёскі. Адкрыў у 1934 К. М. Палікарповіч, даследавалі ў 1947 Палікарповіч, у 1961—62, 1967 У. Дз. Будзько, з 1984 З. А. Абрамава. Культурны пласт залягае на глыбіню 2,5—3 м ад сучаснай дзённай паверхні. Выяўлены рэшткі 2 вял. і 3 малых жытлаў з касцей маманта. Адно з вял. жытлаў, даследаванае Палікарповічам, памерам 11×13 м мае 2 канцэнтрычныя кольцы з чарапоў маманта (унутранае 14, вонкавае 20 чарапоў), уздоўж вонкавага кальца складзены трубчастыя косці



Касцяная галоўка птушкі 18—16-га тысячагоддзяў да н. э. з паселішча **Юдзінава.**



Касцяныя падвескі 18—16-га тысячагоддзяў да н. э. з паселішча **Юдзінава.**

маманта. Унутры жытла былі рэбры маманта і рэшткі агнішча ў выглядзе скопішча касцянога вугалля. Малыя жытлы мелі круглаватую форму, 5—6 м у папярочніку, кольцы з чарапоў маманта — і вонкавую абкладку з трубчастых і інш. касцей. Ва ўсіх жытлах трапляюцца плоскія і трубчастыя косці са штучнымі адтулінамі, відаць, прыстасаванымі для мацавання каркаса. З вонкавага боку жытлаў выяўлены 3 вогнішчы памерамі 4,2×2,4 м, 5,4×3 м і 3,5×3 м, каля іх размяшчаліся пляцоўкі, дзе выраблялiся прылады працы.

Пры раскопках знойдзены рэшткі фауны (маманта, бурага мядзведзя, пясца, паўн. аленя, бізона і інш.), расшчэплены крэмень, бакавыя, сярэдзінныя, вуглавыя і камбінаваныя разцы, скрабкі (простыя і двайныя канцавыя, паўкруглыя і круглаватыя на каротkіх адшчэпах), пласціны з прытупленым краем, вастры з прытупленай спінкай, праколкі, долатападобныя прылады, шырокалязовае скрэбла, а таксама камбінаваныя прылады працы. Сярод касцяных і рагавых знаходак — наканечнікі дроцікаў і коп'яў, дзяржанні крамянёвых прылад працы (шылаў, іголак, праколак), цёрачнікі для расцірання раслiннай ежы, капалкі, рэтушоры, вастры, кінжалы і інш. Рэчы палеалітычнага мастацтва прадстаўлены галоўкай птушкі, выразанай з адростка рога паўн. аленя. Для арнаменту на касцяных вырабах характэрны ромбы, зігзагі, падоўжныя, хвалістыя лініі, а таксама чаргаванне заштрыхаваных і незаштрыхаваных прамавугольнікаў і інш. Вырабы з біўняў маманта ўпрыгожаны арнаментам, што нагадвае луску змяі. Упрыгожанні прадстаўлены наборам прасвідраваных ракавін, амулетамі з зубоў ваўка, пясца і інш. жывёл.

Паселішча адносіцца да позняй пары верхнепалеалітычнай эпохі (20—18 тыс. г. да н. э.). Радыеметрычныя даныя ў межах ад 12300±200 да 15660±180, зробленыя пры аналізе рэшткаў касцей маманта і інш. жывёл, завышаны і не могуць быць надзейнай крыніцай для датавання помніка.

*Літ.:* 847, 919.

*У. Дз. Будзько, В. Я. Кудрашоў.*

**ЮДЗІЧЫ,** археал. помнікі каля в. Юдзічы Рагачоўскага р-на.

Курганны могільнік-1 радзімічаў. За 500 м на ПдЗ ад вёскі, на беразе вадасховішча. 169 насыпаў выш. 1—2 м, дыям. 6—12 м. Вакол многіх курганоў прасочваюцца раўкі. Адкрыты ў 1873, абследавалі ў 1890 Е. Р. Раманаў, у 1930 А. М. Ляўданскі, даследавалі ў 1968 Г. Ф. Салаўёва, у 1979—80 А. М. Плавінскі і В. Н. Рабцэвіч (15 насыпаў). Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце (зрэдку на пясчанай падсыпцы) галавой на З. Пахаванні ў асноўным адзіночныя, у трох выпадках — парныя.

Знойдзены фрагменты ганчарнага посуду, нажы, абручы і дужкі ад вядзёр, гліняная лыжачка для разліўкі металу, бронзавая трохдротавая грыўня з заходзячымі канцамі і квадратнымі галоўкамі, драцяныя бранзалетападобныя і сяміпрамянёвыя скроневыя кольцы, бранзалеты, пярсцёнкі, сярэбраныя і бронзавыя званочкі, бронзавыя лжэзярнёныя крыжыкі і шыракарогія лунніцы, касцяныя амулеты-конікі, разнастайныя пацеркі (золатаі сярэбранашкляныя бочкападобныя, чорнашкляныя з белай эмаллю — «у вочкі», сінія беларамбічныя, сердалікавыя, з горнага хрусталю, бурштыну і інш.). У складзе караляў-маністаў знойдзены арабскі дырхем 10 ст.

Датуецца 11 ст.

Курганны могільнік-2. За 500 м на ПдУ ад вёскі, у лесе, на беразе вадасховішча. Каля 40 насыпаў выш. 0,5—6 м, дыям. 5—12 м. Вакол насыпаў прасочваюцца раўкі. Адкрылі ў 1980 Плавінскі і Рабцэвіч.

Селішча. За 500 м на ПдУ ад вёскі, на беразе вадасховішча. Пл. 0,25 га. Выявілі і абследавалі ў 1980 Плавінскі і Рабцэвіч. У 2 шурфах памерам 1×1 м культурны пласт 0,2 м. Знойдзены фрагменты ляпнога і ганчарнага посуду.

*Літ.:* 833, 888.

*А. Р. Мітрафанаў, А. М. Плавінскі.*

**ЮРАВІЧЫ,** група археал. помнікаў каля в. Юравічы Калінкавіцкага р-на.

Паселішча-1 эпохі верхняга (позняга) палеаліту (26470±420 г). У цэнтры вёскі, на левым карэнным





Упрыгожанні з курганнага могільніка **Юдзічы.**

беразе Прыпяці, на паўд.-зах. схіле стараж. яра, злучанага з далінай ракі. Вышыня над летнім межанным узроўнем вады ў Прыпяці 24—25 м. Адкрыў у 1929 Ю. Ю. Попель, даследавалі ў 1929 і 1931 К. М. Палікарповіч (ускрыта 59 м²), у 1958—60 У. Дз. Будзько (122 м²), у 1976 У. П. Ксяндзоў (77 м²). Геалагічныя ўмовы залягання культурных рэшткаў вывучалі ў розны час Л. М. Вазнячук, Г. М. Мірчынк, М. М. Цапенка. На думку некаторых даследчыкаў (Г. Ф. Мірчынк, Будзько),

культурны пласт на глыб. 8—9 м ад паверхні плато складаецца з 2 гарызонтаў, раздзеленых праслойкай суглінку. У ніжнім гарызонце выяўлены рэшткі авальнай пабудовы на фундаменце з валуноў, чарапоў, буйных плоскіх і трубчастых касцей мамантa.

Сабраны крамянёвыя прылады працы: вастрыі з прытупленым рэтушшу краем, скрабкі, пласціны-нажы, унікальны крамянёвы кінжал, нуклеусы. У верхнім гарызонце прасочаны рэшткі агнішчаў, выкладзеных камянямі, і руіны моцна дэфармаваных жытлаў з касцей маманта, буйных камянёў і пліт валуннага паходжання. Паводле даследаванняў Ксяндзова, культурны пласт разбураны ў старажытнасці. У выніку ўразання яра ва ўсх. частку помніка культурныя рэшткі былі перадкладзены ў базальны гарызонт і тоўшчу яравага алювію. Яны залягаюць у несартавальным пясчана-гравійным матэрыяле гарызонту размыву марэны сярод шматлікіх валуноў і рознакаляровых аглеeных пяскоў, якія ацалелі ад размыву. Культурныя рэшткі, што знаходзіліся ў зах. частцы помніка, у ходзе плоскаснага змыву перасунуліся ўніз па схіле ў паўн. напрамку. За гады раскопак знойдзены крамянёвыя бакавыя разцы, нажападобныя пласціны, вастрыі і пласцінкі з прытупленым рэтушшу краем, прылады з лускаватай падчоскай канцоў, скрабкі, адбойнікі, рэтушоры, нуклеусы, праколкі, вырабы з біўня маманта — абломак капалкі, пласцінка з геам. узорам у выглядзе шасцівугольнікаў і зігзагаў, абломкі пласцін з паліроўкай і штрыхоўкай па ўсёй паверхні, касцяныя рэшткі маманта (15—20 маладых асобін), старaж. быка, каня, пясца. Паводле арнаменту на косці помнік нагадвае паселішча *Елісеевічы*, паводле крамянёвага інвентару блізкі да помніку еўрап. позняга гравета. З'яўляецца адным з найстараж. помнікаў на Беларусі.

Паселішча-2 эпохі мезаліту. За 1—1,5 км на ПдЗ ад цэнтра вёскі, на пясчаных узгорках. З Пн каля ўзгоркаў працякае прыток р. Прыпяць. Паверхня пашкоджана выдзіманнямі, на месцы якіх прасочваецца пласт падзолу каля 0,3 м, перакрыты праслойкай наноснага пяску да 1 м. Адкрылі і абследавалі ў 1929—31 Палікарповіч і А. Дз. Каваленя, даследаваў у 1960—65 У. Ф. Ісаенка. Культурны пласт 0,3 м прасочваецца на працягу 300 м. Знойдзены 71 крамянёвая прылада працы, 280 апрацаваных крамянёў. На дне выдзіманняў выяўлены рэшткі 4 агнішчаў. Датуецца 8—5-м тысячагоддзямі да н. э.

Паселішча-3 усходнепалескага варыянта *днепра-данецкай культуры* эпохі неаліту. За 1 км на З ад вёскі, на зах. беразе воз. Ліцвін. Адкрыў і даследаваў 180 м² у 1962—63 Ісаенка. Культурны пласт 0,2—0,3 м на глыб. 0,3—0,5 м. У паўн. частцы раскопу ўскрыты рэшткі паўзямлянкавага жытла (5×3,4 м) з цэнтр. апорным слупам. Заглыбленая частка жытла запоўнена культурным пластом з праслойкамі вуголля. Уваход у паўзямлянку, верагодна, знаходзіўся ў паўд. частцы, дзе выяўлены некалькі перапаленых камянёў і пляма попелу. Знойдзены крамянёвы нож і некалькі кавалкаў керамікі. За 4 м на З ад жытла прасочана яма дыям. 2 м і агнішча памерам 2,5×1,8 м. З усх. боку жытла выяўлена некалькі месцаў з абломкамі посуду. Усяго знойдзена 300 апрацаваных крамянёў, 650 фрагментаў ляпной керамікі да 35 вастрадонных гліняных гаршкоў.



Агульны выгляд паселішча-1 **Юравічы.** Раскопкі 1961.




Чурынга з ікла маманта (1), крамянёвыя нажы-граветы (2, 3) і востраканцовы клінок (4) з паселішча-1 **Юравічы.**

Паселішча-4 усходнепалескага варыянта днепра-данецкай культуры (позні неаліт). За 200 м на Пн ад паселішча Юравічы-3. Выявіў і даследаваў у 1962—66 Ісаенка. Ускрыта 570 м². Каля наземнага жытла памерамі 4,6×4,8 м і рэшткаў 2 агнішчаў знойдзены абломкі ляпнога посуду, 700 апрацаваных крамянёў, 51 прылада працы (наканечнікі стрэл, праколкі, нажы, пласцінкі, скрабкі, скоблі).

Паселішча-5 усходнепалескага варыянта днепра-данецкай культуры. На паўн.-ўсх. беразе воз. Ліцвін, каля Дома адпачынку чыгуначнікаў. Памеры 80×20 м. Адкрыў у 1960 і даследаваў 142 м² у 1968—69 Ісаенка.

Каля ўскрытага агнішча знойдзены абломкі больш за 50 ляпных гаршкоў, 400 апрацаваных крамянёў, крамянёвыя трохвугольныя наканечнікі стрэл, трапецыі, скрабкі, скоблі, нажы з пласцін і шырокіх адшчэпаў. Выяўлены таксама косці лася, каня, касулі.

Паселішча-6. У паўн. частцы паселішча-4. Выявіў у 1962 Ісаенка, даследаваў у 1976 В. Б. Перхаўка. Прасочаны рэшткі 2 жытлаў зрубнай канструкцыі пл. 17 і 20 м², заглыбленых у зямлю. Посуд характэрны для *банцараўскай культуры*. Датуецца 6—8 ст. н. э.

Гарадзішча эпохі Кіеўскай Русі. Магчыма, старaж. горад, які называўся *Межымосце* ці Відолічы (цяпер назва вуліцы ў Юравічах). Размешчана на тэр. калгаснага саду. Выш. над далінай Прыпяці 30 м. Адна пляцоўка пл. каля 1 га умацавана падковападобным валам выш. да 6 м і ровам глыб. 4 м (дзядзінец), другая — пл. 5 га з боку поля ўмацавана валам (знесены) і ровам (засыпаны). Даследавалі ў 1931 А. М. Ляўданскі і Палікарповіч, у 1965 і 1975 Ісаенка. Культурны пласт 1 м.

Выяўлены абломкі гаршкоў 10—13 ст., шыферныя прасліцы, вырабы з жалеза, наканечнікі ножнаў мяча, унікальная касцяная лыжачка са знакам Рурыкавічаў і стылізаванай выявай жывёліны на канцы. Частка посуду, кафля, плінфавая цэгла невял. памераў аднosяцца да 15—16 ст., калі гарадзішча было адноўлена і з'яўлялася ўмацаванай сядзібай памешчыка

У культурным пласце пасада (каля падножжа ўзвышша) трапляюцца фрагменты гаршкоў, часам апрацаваныя косці, прасліцы з оўруцкага шыферу.

Датуецца 10—13 ст.

Курганны могільнік дрыгавічоў 12—13 ст. На Пд ад гарадзішча, за ярам. Было 14 курганоў, захавалася 6 насыпаў выш. 1—3 м, дыям. 4—10 м. Даследавалі ў 1931 Ляўданскі, у 1959 і 1976 Ісаенка. У 4 раскапаных курганах пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце. Нябожчыкаў клалі ў дамавіны з 4 дошак, змацаваных па вуглах цвікамі. Часам дамавіны абгортваліся бяростай. Пад насыпам аднаго кургана ў неглыбокай яме знойдзена парнае пахаванне мужчыны і маладой жанчыны. Памерлых звычайна клалі галавой на З, адна старая жанчына пахавана галавой на У.

Сярод пахавальнага інвентару — фрагменты гаршкоў, сярэбраныя, пазалочаныя, інкруставаныя і сердалікавыя пацеркі, дрыгавіцкая сярэбраная філіграннная пацерка «мінскага тыпу», паўтараабаротныя кольцы, трохпацеркавыя завушніцы «кіеўскага тыпу». На руках і нагах былі расплюшчаныя кольцы з дроту. Тры асобныя вял. курганы размешчаны на У ад вёскі, каля дарогі Юравічы — Хойнікі.

*Літ.*: 171, 455, 458, 460, 617, 867, 919.

*У. Дз. Будзько, У. Ф. Ісаенка.*

**ЮР'ЕВА,** селішча і курганны могільнік каля в. Юр'ева Смалявіцкага р-на.

Селішча. За 2,1 км на Пд ад вёскі, каля воз. Малое, пасярод балота на востраве Апалушкава. Пл. 1000 м². Выявіў і даследаваў у 1923 А. М. Ляўданскі. Культурны пласт 0,25—0,3 м. Знойдзены адшчэпы крэменю, фрагменты ганчарных гаршкоў, аздобленых па ўсёй паверхні лінейным, радзей хвалістым арнаментам. Датуецца 11—12 ст.

Курганны могільнік. За 5 км на ПдУ ад вёскі, каля б. хутара Тачылішча. 9 курганоў выш. 1,2—2 м, дыям. 4—9 м (некаторыя чатырохвугольныя ў плане), адзін за 500 м на Пд ад асн. групы. Даследаваў 6 насыпаў у 1923—24 А. М. Ляўданскі. Пахавальны абрад — трупаспаленне на падсыпцы. У адным выпадку косці ляжалі ў ямцы, у другім — на мацерыку.

Знойдзены шкляная сіняя пацерка, бронзавая бляшка-падвеска, фрагменты жал. вырабаў, гліняныя урны, падпраўленыя на ганчарным крузе. Пад насыпамі выяўлены рытуальныя агнішчы.

Датуецца 10 ст.

*Літ.:* 721. *Г. В. Штыхаў.*

**ЮРКАВІЧЫ,** бескурганны могільнік *зарубінецкай культуры* каля в. Юркавічы Веткаўскага р-на. На паўн.-зах. ускраіне вёскі, на краі 4—7-метровай надпоплаўнай тэрасы правага берага р. Сож, ва ўрочышчы Сіянская Гара. Адкрылі і абследавалі ў 1982 У. А. Літвінаў і А. А. Макушнікаў, якія выявілі рэшткі напаўразбуранага пахавання. У 1985—86 А. І. Драбушэўскі правёў ахоўныя даследаванні, на пл. 800 м² зафіксавана 18 пахаванняў. Пахавальны абрад — трупаспаленне, пахаванні ямныя і урнавыя. Перапаленыя косці разам з рэшткамі пахавальнага кастра змяшчалі ў авальныя (памер 0,5—1,2×1,1—2,6 м, арыентаваныя па лініі Пн — Пд) і круглыя (дыям. 0,6—1,3 м) ямы. У 2 выпадках перапаленыя косці знаходзіліся ў урнах-гаршках. У адным з пахаванняў у урне разам з касцямі ляжала сярэднелатэнская жал. фібула 1 ст. да н. э. Пахаванні не парушалі адно другое, відаць, яны мелі нейкія надмагільныя знакі, каля аднаго пахавання захаваліся сляды 4 слупавых ям.



Сценка гаршка днепра-данецкай культуры з паселішча-4 **Юравічы.**



Сценка гаршка з грабеньчатым арнаментам з паселішча-5 **Юравічы.**

Сярод пахавальнага інвентару — гліняны посуд, прадметы ўзбраення, прылады працы і разнастайныя ўпрыгожанні. Найбольш пашыраныя знаходкі — грубаляпныя круглаватабокія гаршкі з плаўнаадагнутым венчыкам, часта ўпрыгожаным арнаментам ў выглядзе пальцавых уціскання. Частка пасудзін укрыта штрыхамі. Поўнасцю адстунічае глянцаваны посуд, характэрны для могільнікаў зарубінецкай культуры. У кожным чацвёртым пахаванні знойдзены разнастайныя антычныя шкляныя пацеркі, што сведчыць пра цесныя эканам. сувязі стараж. насельніцтва Гомельскага Пасожжа з Паўн. Прычарнамор'ем на рубяжы н. э.

Паводле характару пахавальнага абраду і пахавальнага інвентару могільнік належыць да групы помнікаў тыпу Чачэрск — Кісцяні верхнедняпроўскага варыянта зарубінецкай культуры. *А. І. Драбушэўскі.*

**ЮХНАЎСКАЯ КУЛЬТУРА,** археал. культура плямён — сучаснікаў і ўсх. суседзяў носьбітаў *мілаградскай культуры* (7—3 ст. да н. э., час існавання ўдакладняецца). Мае зах. і ўсх. варыянты (апошні раней вылучалі ў верхняокскую археал. культуру). Асн. тэрыторыя — басейны сярэдняй Дзясны, верхняй Акі і Сейма (Бранская, Калужская, Курская, Тульская вобл. Расіі, частка тэр. Чарнігаўскай вобл. Украіны). Назва па гарадзішчы каля с. Юхнава Чарнігаўскай вобл. На Беларусі помнікі Ю. к. даследаваны А. Я. Аліхавай і В. М. Мельнікоўскай у Добрушскім і Веткаўскім р-нах (*Падгор'е, Свяцілавічы* і інш.). Існуе думка, што ў лясной зоне продкі юхнаўскага насельніцтва (носьбіты бандарыхінскай культуры, выцесненыя з паўд. стэпаў ваяўнічымі вандроўнікамі-кімерыйцамі) з'явіліся на рубяжы бронзавага і жал. вякоў. Пазней, у часы *скіфаў,* юхнаўскае насельніцтва перасялілася на Пд, у басейн Сейма. Пад канец 1-га тысячагоддзя да н. э. на землі Ю. к. з сярэдняга Дняпра ў Падзясенне прыйшлі носьбіты *зарубінецкай культуры,* якія стварылі тут *почапскую культуру.* Удзел носьбітаў Ю. к. ў гэтым працэсе ацэньваюць па-рознаму.

Прадстаўлена ў асн. мысавымі гарадзішчамі невял. памераў; вядомы нешматлікія селішчы і адзінкавыя могільнікі з трупаспаленнем ці трупапалажэннем. Напачатку іх гарадзішчы ўмацаваны плятнямі, пазней землянымі валамі з равамі. Тыповым жытлом Ю. к. быў «доўгі дом». Вакол пляцоўкі гарадзішча, шчыльна да яе краю, убівалі 2 паралельныя рады калоў (аснова сцен), якія апляталіся лазой і абмазваліся глінай. Дах насцілалі саломай ці трыснягом. Дом дзяліўся на секцыі з агнішчам для кожнай сям'і. Кераміка прадстаўлена самабытнымі цюльпанападобнымі гаршкамі з высокім стройным тулавам і плоскім дном, спачатку грубаляпнымі, пазней танкасценнымі пасудзінамі, выробленымі на ганчарным крузе. Верхняя частка гаршка арнаментавана ямкамі ці іх спалучэннем у выглядзе трохвугольніка («вінаградная гронка»), ніжняя абстругана нажом. Знойдзены цагліны (падстаўкі для ачага, магчыма, мелі рытуальнае прызначэнне), рыбалоўныя прылады (грузілы, астрогі, кручкі). Металічны інвентар падобны на мілаградскі, сведчыць пра моцны ўплыў скіфаў (жал. клінападобныя сякеры, сярпы з кручкамі, нажы з гарбатай спінкай, трохгранныя ці трохлопасцевыя бронзавыя наканечнікі стрэл, цвікападобныя шпількі, грыбападобныя завушніцы, антычныя пацеркі).

*С. Я. Расадзін.*

# Я

**ЯДКО́ЎСКІ** (Jodkowski) Юзаф (20.12.1890, Гродна — 2.1.1950), археолаг і нумізмат. Скончыў Гродзенскую гімназію, Маскоўскі археал. ін-т (1912). Працаваў у Румянцаўскім музеі ў Маскве, быў кансерватарам Віленскай, Гродзенскай і Мінскай губ. Дзякуючы Я. былі захаваны іканастас 17 ст. ў Супраслі, касцёл з фрэскамі ў Гарадзішчы. Выступаў у абарону Сынковіцкай царквы-крэпасці, Мірскага замка. Разам з В. Шукевічам праводзіў археал. даследаванні ў Начы (Воранаўскі р-н), разам з Ю. Талька-Грынцэвічам — у Ланкішках (Воранаўскі р-н) і Дубічах (замак Вітаўка). У 1920 урадам Польшчы зацверджаны кіраўніком бюро дзярж. апекі над помнікамі гісторыі і культуры ў Гродне і Гродзенскім пав., стварыў музей (гл. *Гродзенскі гісторыка-археалагічны музей*), хавальнікам якога быў да 1936. Арганізаваў выданне штогодніка «Музей у Гродне» («Muzeum w Grodnie»). З канца 1930-х г. працаваў у Варшаве, з 1944 у Кракаве, хавальнік Народнага музея (з 1945), старшыня Варшаўскага нумізматычнага т-ва, рэдактар часопіса «Wiadomości numizmatyczno-archeologiczne» («Нумізматычна-археалагічныя ведамасці»). Правёў археал. раскопкі ў Ваўкавыску (1925), у Гродне на Замкавай Гары (1932—33), дзе выявіў княжацкі церам, участак мураванай сцяны, рэшткі 2 мураваных храмаў (пазней атрымалі назвы *Гродзенская Ніжняя царква* і *Гродзенская Верхняя царква*). У 1935 даследаваў Каложскую царкву, якую датаваў 11 ст. Засталася нявыдадзенай шматтомная праца Я. «Польскія рэліквіі ў Расіі». У снежні 1990 у Гродзенскім гісторыка-археал. музеі адбылася навук. канферэнцыя з нагоды 100-гадовага юбілею Я., яго памяці прысвечаны зборнік артыкулаў «Краязнаўчыя запіскі» (Гродна, 1990).

*Тв.:* Замок в Мире // Древности: Труды комиссии по сохранению древних памятников... М., 1915. Т. 6; Церкви, приспособленные к обороне в Литве и Литовской Руси // Тамсама; Grodno. Wilno, 1923; Grodzisko Wołkowyskie. Grodno, 1925; Grodno wczesnośredniowieczne... Warszawa, 1934; Świątynia warowna na Kołoży w Grodnie. Grodno, 1936; Pieczęcie wileńskie w Muzeum Rumiancowskim w Moskwie // Rocznik Tow. przyj. nauk w Wilnie. 1909. T. 3; Pieczęcie polskie w Muzeum Rumiancowskim w Moskwie // Wiadomości numizmatyczno-archeol. 1910. T. 2; Okolice Grodna pod względem archeologicznym // Swiatowid. 1912. T. 10; O znaku na cegle «teremu» książęcego w Grodnie. Kraków, 1934; Pieczęcie ruskie z XI—XII w., znalezione w Grodnie i Drohiczynie // Przegląd historyczny. 1948. T. 37.

*Літ.:* 808, 1484.

*А. П. Госцей, В. В. Швед.*

**ЯДРО́**, зброя дальняга бою ў выглядзе шара з вапняку, граніту, жалеза, які выпускалі па цэлі з дапамогай прыстасавання для кідання.

Вядома з антычнасці (Стараж. Грэцыя, Рым), дзе выкарыстоўвалася для стральбы з балістаў. У славян выкарыстоўвалася з 6 ст. Пашырэнне набыло з 13 ст. ў сувязі з развіццём прыстасаванняў для кідання. На Беларусі вядома з 13 ст. Каменныя Я. 13 ст. (дыям. 12—15 см), прызначаныя хутчэй за ўсё для т. зв. «парокаў», вядомы на раскопках Гродзенскага Старога замка, каменныя і вапняковыя ядры 14—17 ст. (дыям. 7—9 см, 34 см) — па раскопках Лідскага замка. Найбуйнейшыя з лідскіх ядраў маглі адносіцца да бамбардаў. Вял. колькасць каменных ядраў 16 ст. вядома па раскопках Віцебскага Верхняга замка (25 экз., дыям. 8,5—13,5 см, 7,8—8 см, вага 1,5—3,5 кг) і Слуцкага Верхняга замка (20 экз., дыям. 10,5—13,5 см, вага 1,8—2,6 кг). Адно Я. з Віцебска (дыям. 15,5 см, вага 15,15 кг) мела канічнае паглыбленне, запоўненае сумессю дымнага пораху з воскам. Каменныя ядры 16 ст. вядомы таксама па раскопках Мінскага замчышча, Віцебскага Ніжняга замка і Навагрудка. Жалезныя Я. 17 ст. вядомы на Беларусі па раскопках Мірскага замка, Віцебскага Верхняга замка, у Суражы. Жалезнае Я. з Суража мела дыям. 8,2 см, вагу 2,2 кг. Я. з Віцебска дыям. 10,1 см, вагой 4,5 кг (прыкладна 9 артылерыйскіх фунтаў) мела па экватары канаўку шыр. 1 см, глыб. 2—3 мм. Адносілася, хутчэй за ўсё, да гармат-фальканетаў.



Бронзавыя трапецападобныя падвескі з гарадзішча **Язна**.

*Літ.:* 529, 1189, 1216.

*Л. У. Калядзінскі.*

**ЯЗНА**, гарадзішча *днепра-дзвінскай культуры* і *банцараўскай культуры* каля в. Язна Міёрскага р-на. За 500 м на Пд ад вёскі, на беразе воз. Малое Язна. Займае ўзвышаную частку доўгага ўзгорка, абмежаванага вял. ровамі і поймай ручая. Пляцоўка авальная (90×42 м), умацаваная з трох бакоў валам і ровам, якія маюць цяпер выгляд тэрасы. Вядома з 1890-х г. Абследавалі ў 1930-я г. Г. Цэгак-Галубовіч і У. Галубовіч, у 1981 А. У. Ільюцік, даследаваў у 1955 і 1961 А. Р. Мітрафанаў (428 $м^2$). Культурны пласт у цэнтры пляцоўкі 0,1—0,2 м, па краях 1—1,2 м.

Выяўлены сляды наземнага жытла слупавой канструкцыі і круглае ў плане глінабітнае збудаванне (хутчэй за ўсё кавальскі горан) дыям. 1,1 м, у цэнтры якога — запоўненая пяском круглая яма дыям. 0,1 м, глыб. 0,2 м. Сценкі яе загартаваны на таўшч. да 0,2 м. Вакол горна знойдзены крыцы, шлакі, шмат акаліны. За 1 м ад горна была чатырохвугольная гасп. яма з касцямі дзікай і свойскай жывёлы. Знойдзены жал. сярпы, шылы, наканечнікі дроціка, бронзавыя спіралькі, абломкі бранзалетаў, касцяныя шпількі, каменныя таўкачы, кераміка *днепра-дзвінскай культуры*, бронзавыя трапецападобныя падвескі, 2 кавалкі бронзавых ланцужкоў, прычэпленых ад акулярападобнай падвескі, падкovападобная фібула, жал. наканечнікі стрэл с шыпамі.

*Літ.:* 847. *А. Р. Мітрафанаў.*

**ЯКІМО́ВІЧ** Раман Іванавіч (30.4.1889, г. Юр'еў-Польскі Уладзімірскай вобл.— 21.1.1951), археолаг. Д-р філасофскіх (1919) і гіст. навук (1934). Вучыўся ў ун-тах Львова, Кракава. Удзельнік рэвалюцыі 1905—07. У 1919—39 праф. Пазнанскага ун-та. У 1923 арганізаваў там археал. музей, у 1928—39 дырэктар гэтага музея. З 1949 праф. Таруньскага ун-та. У 1936 і 1938 чытаў лекцыі ў Віленскім ун-це. У 1929—39 рэдактар часопіса «Wiadomości archeologiczne». Вывучаў камунікацыйныя шляхі на У ад польскіх зямель, у т. л. на Беларусі. Даследаваў стараж. гісторыю Давыд-Гарадка, Любомлі і інш. Вывучаў сярэбраныя аздобы, іх паходжанне і з'яўленне на слав. землях і Беларусі, межы ўплыву мазавецкага асадніцтва на землі старaж. ятвягаў і Старaж. Русі ў 10 і 11 ст. Правёў некалькі археал. экспедыцый на тэр. Беларусі.

*Тв.:* Dawidgródek. Pińsk, 1939.

*Літ.:* 1443а. *Г. А. Каханоўскі.*

**ЯМКАВА-ГРАБЕ́НЬЧАТАЙ КЕРА́МІКІ КУЛЬТУ́РА**, археал. культура плямён *неаліту*, якія ў 2-й пал. 4-га — 3-м тысячагоддзі да н. э. жылі ў лясной паласе Усх. Еўропы (басейны Верхняй Волгі, Акі, вярхоўі Дона, Дзясны, Дняпра). Вылучыў у 1922 Ю. Айліо, даследавалі ў 1950-я г. М. Я. Фос, А. Я. Брусаў, П. М. Траццякоў і інш. На-

сельніцтва займалася рыбалоўствам і паляваннем, жыло на невял. паселішчах, размешчаных на краях надпоплаўных тэрас, невысокіх узвышшах сярод поймаў рэк. Жытлы спачатку былі авальныя (даўж. 4—8 м), пазней прамавугольныя (часам даўж. больш за 10—15 м) з двухсхільным дахам, адным ці некалькімі агнішчамі ўнутры. Пахавальны абрад — трупапалажэнне. Нябожчыкаў хавалі ў магільных ямах (глыб. 0,8—2 м) сагнутымі ў каленях, лакцях. Пахавальны інвентар часта адсутнічае, зрэдку трапляюцца падвескі з прасвідраваных зубоў, іклаў, сківіц жывёлы. Асн. форма керамікі — кругладонныя або яйцападобныя пасудзіны, канічныя міскі з гліны, у якую дамешвалі раслінныя рэшткі, пазней пясок, жарству. Посуд упрыгожваўся аднастайнымі арнаментамі з глыбокіх канічных, авальных, ромбападобных, грубых лапчастых ямак, пры адцісканні якіх знутры атрымліваліся выпукліны. Некаторыя арнаменты перарываліся стужкамі адбіткаў буйна- і шматзубчастага грэбеня, наколамі. Пазней арнаментацыя канцэнтравалася ўверсе, уключала сціплыя геам. фігуры, выявы качак. Прылады працы прадстаўлены буйнымі крамянёвымі вырабамі — лістападобнымі наканечнікамі дроцікаў, пласцiністымі і ромбападобнымі наканечнікамі стрэл, шырокімі нажамі, скрэбламі, буйнымі скрабкамі і скоблямі, разакамі, вуглавымі разцамі, трапецападобнымі сякерамі, цёсламі, долатамі. Радзей сустракаюцца трапецыі, шліхтаваныя прылады. Ёсць звесткі, што плямёны Я.-г. к. к. выцеснілі з басейна Верхняй Волгі папярэдняе насельніцтва з грабеньчата - накольчата - накрэсленай керамікай (*верхняволжская культура,* якая нагадвала *днепрадонецкую культуру*). Пазней утварылася *этнакультурная вобласць* Я.-г. к. к., у якой раннім этапам развіцця з'яўляецца льялаўская культура. У 3-м тысячагоддзі да н. э. пад уздзеяннем з У плямён воласаўскай культуры насельніцтва Я.-г. к. к. распаўсюдзілася да Ніжняй Дзясны, Сейма, Ворсклы (*дзяснінская культура),* а таксама Сажа (урочышчы Цыганскі Бугор, Чачуроўка ў Веткаўскім р-не), Верхняга Дняпра (магчыма, белеўская культура). Некаторыя даследчыкі лічаць носьбітамі Я.-г. к. к. стараж. фіна-уграў (уральскія плямёны), зах. адгалінаванне якіх дасягнула Усх. Прыбалтыкі і Фінляндыі (культура тыповай грабеньчата-накольчатай керамікі). Асобныя помнікі Я.-г. к. к. выяўлены ў Бел. Паазер'і (Скема, на воз. Бярэшча ў Лепельскім р-не, р. Свольна ў Верхнядзвінскім р-не, каля в. Ніжнія Немыкары пад Смаленскам). Перастала існаваць у 1-й пал. 2-га тысячагоддзя да н. э. ў сувязі з распаўсюджаннем плямён *шнуравой керамікі культур*. Аднак яшчэ да гэтага ў шэрагу рэгіёнаў Я.-г. к. к. злілася з мясц. культурамі.

*Літ.:* 159, 1172, 1255, 1387.

*У. Ф. Ісаенка.*

**ЯНАВА,** археал. помнікі каля пас. Янава Быхаўскага р-на.

Стаянка-1 *свідэрскай культуры.* За 1 км на Пн ад пасёлка, на правым беразе Дняпра, за 1 км на ПнУ ад мемарыяла Воінскай славы. Адкрыў у 1962 К. П. Шут, даследаваў 230 м², у 1972—73 В. Ф. Капыцін. Культурны пласт 0,4 м. Выяўлены тры скопішчы расшчэпленага крэменю ў заглыбленнях памерам 0,4—0,5 м, якія, відаць, былі майстэрнямі па апрацоўцы крэменю. У якасці сыравіны выкарыстоўваўся імпартны высакаякасны мелавы крэмень. Расшчэплены крэмень знойдзены на ўзараным полі.



Крыж-цельнік з гарадзішча **Янава.**



Прасліцы з гарадзішча **Янава.**

Сярод знаходак пляскатыя двухпляцовачныя ядрышчы са скошанымі да 75° пляцоўкамі, вузкай франтальнай часткай, прызначаныя для сколвання пласцін; свідэрскія наканечнікі стрэл з вылучанымі тронкамі, мініяцюрныя вастрыі, разцы (двухгранныя рэтушаваныя і на зломе загатоўкі), вырабы з выемкамі, выключна канцавыя скрабкі. У далейшым свідэрская традыцыя апрацоўкі крэменю прасочваецца ў сожскай мезалітычнай культуры.

Стаянка-2 свідэрскай культуры. За 200 м на Пд ад пасёлка, 2 км на Пд ад стаянкі-1, на 2-й надпоплаўнай тэрасе правага берага Дняпра, за 1,5 км на Пн ад вусця р. Белалічкі. Адкрыў і абследаваў у 1987 Капыцін.

На ўзараным полі сабраны канцавыя скрабкі з пласцін, рэтушаваныя разцы, свідэрскі наканечнік стралы з вылучанай тронкай і пляскатай рэтушшу з брушка, двухпляцовачныя нуклеусы, пласцінкі і адшчэпы.

Гарадзішча, за 200 м на Пн ад пасёлка, на мысе, утвораным старыцай Дняпра і глыбокім ярам. Памер пляцоўкі 50×40 м. З боку поля ўмацавана валам выш. да 5 м і ровам глыб. 1,5 м. У 1951 абследаваў Ю. У. Кухарэнка. Культурны пласт у сярэдзіне пляцоўкі да 0,5 м. Знойдзена ляпная і ганчарная кераміка. У 1962 Л. Д. Побаль у паўн. частцы пляцоўкі заклаў шурф (2×2 м). Культурны пласт 1 м. Выяўлена часткова кераміка мілаградскай і ранняга этапу зарубінецкай культур. У 1981—83 раскапала 240 м² А. У. Ільюцік. Культурны пласт 0,55—1,65. Выяўлены 3 пахаванні з абрадам трупаспалення, у запаўненні ям — фрагменты грубаляпной керамікі, вугаль і кальцыніраваныя косці.

Знойдзена кераміка мілаградскай і зарубінецкай культур. Частка мілаградскага посуду пакрыта штрыхоўкай па плечуках і тулаве. Зарубінецкая кераміка прадстаўлена фрагментамі гаршкоў і стопак. Гліняныя праселкі і грузікі адносяцца да культур мілаградскай, зарубінецкай, юхнаўскай і штрыхаванай керамікі, 2 прасліцы біканічнай формы з вял. адтулінай — да 5—8 ст., 1 шыферная прасліца — да 10—13 ст. Ганчарныя гаршкі датуюцца 11—16 ст. Выяўлены фрагменты муштукоў белагліняных галандскіх люлек (аналагічныя вядомы ў зах.-еўрап. матэрыялах канца 16—17 ст., на тэр. Беларусі, Масквы, Ленінграда ў пластах 17—18 ст.), вырабы з жалеза (нажы, кіепадобныя шпількі, падкоўкі). Падобныя нажы сустракаюцца на помніках зарубінецкай культуры, шпількі — днепрадзвінскай, зарубінецкай, мілаградскай і штрыхаванай керамікі культур; падкоўкі вядомы ў 14—18 ст. Знойдзены аднабаковы крыж-цельнік з вушкам, на яго правым баку рэльефная фігура распятага Хрыста (11 ст.), вырабы са шкла (абломкі бранзалетаў фіялетавага, жоўтага і бірузовага колераў; 12 — 1-я пал. 13 ст.).

Гарадзішча заснавана племяннай абшчынай мілаградскай культуры, існавала да сярэдзіны 1-га тысячагоддзя н. э. Жыццё на ім адрадзілася ў 11 ст. і працягвалася да 15—16 ст.

Селішча-1, за 200—250 м на Пд ад гарадзішча. Яго даўж. да 200 м, шыр. да 120 м. У 1962 абследаваў і ў 1967 40 м² раскапаў Л. Д. Побаль. Культурны пласт да 0,6 м. Выяўлены 2 гасп. ямы, кераміка эпохі Кіеўскай Русі.

Селішча-2, на ПнЗ ад гарадзішча, на другім баку яра. Даўж. ўздоўж Дняпра да 500 м, шыр. да 200 м. У 1967 616 м² раскапаў Л. Д. Побаль. Культурны пласт 0,2—0,3 м.

Выяўлены слупавыя ямы, попел, вугалі, абпаленыя камяні, грубаляпная кераміка 1-й пал. 1-га тысячагоддзя н. э., кальцыніраваныя косці і ганчарная кераміка эпохі Кіеўскай Русі.

Курганны могільнік, за 600 м на ПнЗ ад гарадзішча. Захавалася 5 курганоў выш. 1,5—2 м, дыям. 10—12 м. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.*: 448, 572, 847, 904.

*В. Ф. Капыцін, А. У. Ільюцік.*

**ЯНІСЛАВІЦКАЯ КУЛЬТУРА,** археал. культура познамезалітычных плямён, якія ў 6—5-м тысячагоддзях да н. э. жылі на тэр. ад цэнтр. Польшчы да зах. Літвы, Беларусі і паўн.-зах. Украіны. Уплывы культуры распаўсюджваліся на суседнія р-ны. Насельніцтва Я. к. займалася паляваннем, у меншай ступені — рыбалоўствам і збіральніцтвам; мела лапланоіднае аблічча; жыло па берагах вадаёмаў у наземных жытлах, якія абаграваліся агнішчамі-кастрышчамі; памерлых хавалі ў магільных ямах з ужываннем охры. Для крамянёвага інвентару Я. к. характэрныя ланцэтападобныя вастрыі, доўгія трохвугольнікі са стромкай рэтушшу, рознафігурныя скрабкі на адшчэпах. Выкарыстоўвалі таксама касцяныя прылады працы і падвескі з зубоў жывёл. На Беларусі найбольш значныя помнікі са знаходкамі Я. к.— стаянкі Беліца-2, Лічыцы-2.

*Літ.*: 562. *М. М. Чарняўскі.*

**ЯНКАВІЧЫ,** археал. помнікі каля в. Янкавічы Расонскага р-на.

Гарадзішча *днепра-дзвінскай культуры.* За 2,5 км ад вёскі ўверх па цячэнні р. Дрыса, каля б. в. Крупец, у лесе. Памер 42×38 м. Адкрылі і даследавалі ў 1962 Г. В. Штыхаў і К. П. Шут, абследавала ў 1981 Т. С. Скрыпчанка. Знойдзены фрагменты ляпнога посуду. Датуецца 6 ст. да н. э.— 4 ст. н. э.

Курганны могільнік-1 атокінскага варыянта *банцараўскай культуры.* За 4 км на ПдУ ад вёскі, ва ўрочышчы Атокі (назва б. вёскі), на левым беразе р. Дрыса. 3 насыпы: адзін доўгі 110×9—10×1—1,5 м, вакол прасочваюцца раўкі глыб. 20—40 см, 2 круглыя выш. да 3 м, дыям. 12 м. Даследаваў 2 насыпы ў 1967—69 Штыхаў. У доўгім кургане па ўсёй плошчы попельна-вугальная праслойка. Відаць, ён насыпаны ў адзін прыём. Даследаваны 3 пахаванні. Пахавальны абрад — трупаспаленне. У попельна-вугальнай праслойцы знойдзена урна (слабапрафіляваная ляпная пасудзіна выш. 26 см), да краёў напоўненая касцямі. На мацерыку ў вогнішчы пл. 24 м² шмат перапаленых касцей, што сведчыць аб спаленні некалькіх нябожчыкаў.

Знойдзены крамянёвыя адшчэпы, фрагменты касцяных вырабаў — арнаментаваная пласціна, зааморфная выява, бронзавая бляшка ад рамяня і перапаленыя рэшткі іншых бронзавых вырабаў. Асаблівае значэнне мае знаходка характэрных для пскоўскіх курганоў



Ляпны посуд з курганнага могільніка-1 **Янкавічы.**

19 бронзавых «бляшак-шкарлупін», якія служылі ўпрыгожаннем галаўнога ўбору або рамяня.

Датуецца сярэдзінай 1-га тысячагоддзя н. э. Ад могільніка паходзіць назва *Атокінскі варыянт банцараўскай культуры.*

Курганны могільнік-2 атокінскага варыянта банцараўскай культуры. За 2 км на У ад вёскі, каля б. маёнтка Павалішына, на левым беразе р. Дрыса. 11 насыпаў: круглыя выш. 1—3 м, дыям. 8—12 м, адзін доўгі 12×7×0,6—0,8 м. Адкрыў у 1967 і даследаваў 7 курганоў у 1968 і 1970 Штыхаў. Пахавальны абрад — трупаспаленне па-за курганом. Меў спецыфічныя рысы: на месцы будучага кургана паліўся рытуальны агонь, потым насыпаўся курган, у які (на падсыпцы або ў вяршыні) змяшчалася урна з рэшткамі крэмацыі, потым, верагодна, зноў паліўся агонь. Трупаспаленне адбывалася ў іншым месцы. У доўгім кургане 3 пахаванні. Знойдзена шмат фрагментаў ляпной гладкасценнай і з расчосамі керамікі, фрагменты бронзавых вырабаў. Датуецца сярэдзінай 1-га тысячагоддзя н. э.

*Літ.*: 848. *Г. В. Штыхаў.*

**ЯНЧУ́К** Мікалай Андрэевіч [17(29).11.1859, в. Корніца Седлецкага ваяводства, Польшча — 6.12.1921], беларускі і рускі вучоны-славіст (этнограф, літаратуразнавец, музыказнавец, музеязнавец, фалькларыст, антраполаг, археолаг, краязнавец), пісьменнік. Скончыў Маскоўскі ун-т (1885). Працаваў настаўнікам, з 1892 памочнік бібліятэкара Румянцаўскага музея, хавальнік Дашкаўскага этнаграфічнага музея ў Маскве. Зрабіў класіфікацыю прадметаў, скл ў «Ілюстраваны даведнік этнаграфічнага музея», асобна вылучыў бел. матэрыялы з Магілёўскай, Віцебскай, Мінскай, Гродзенскай, Віленскай і Смаленскай губ. У 1889—1903 сакратар аддзела этнаграфіі Т-ва аматараў прыродазнаўства, антрапалогіі і этнаграфіі пры Маскоўскім ун-це. Адзін з заснавальнікаў і рэдактараў часопіса «Этнографическое обозрение». З 1918 выкладаў у Маскоўскім ун-це. Удзельнічаў у рабоце камісіі па арг-цыі Бел. ун-та, з 1921 прафесар кафедры бел. л-ры і этнаграфіі БДУ. Навук. дзейнасць пачаў з краязнаўства. З 1885 зрабіў апісанне фальклорна-этнаграфічнага абраду Корніцкага прыхода. Вёў раскопкі курганоў і гарадзішчаў. У 1886 правёў антрапалагічную экспедыцыю ў Беларусь і Літву. Даследаваў Юравіцкую воласць Ігуменскага, в. Языль Бабруйскага паветаў, *Няжараўку.* Па антрапалагічных асаблівасцях (форме твару, колеру вачэй, валасоў і інш.) зрабіў вывады пра тыпы беларусаў. Актыўна выступаў супраць паланізацыі і русіфікацыі Беларусі. Зрабіў выснову, што бел. народ па сваёй культуры стаіць на адным узроўні з суседнімі народамі і мае права на самастойнае існаванне. Прааналізаваў археал. і этнаграфічную дзейнасць А. К. *Кіркора.*

*Тв.*: А. К. Киркор: Краткий очерк жизни и деятельности. М., 1888; По Минской губернии: (заметки из поездки в 1886 году). М., 1889; К вопросу об антропологическом типе литовцев // Труды антропологического отдела... М., 1890. Т. 12, вып. 6; Некоторые данные к вопросу об антропологическом типе белорусов // Там жа. Вып. 3; Археологическо-этнографическая поездка в Седлецкую губернию // Памятная книжка Седлецкой губернии на 1892 г. Седлец, 1892.

*Літ.*: 182, 882, 1321, 1411, 1412.

*Г. А. Каханоўскі.*

**ЯРО́ЦКІ** Станіслаў Лук'янавіч [1871, Варшава (?) — 13.10.1944], беларускі археолаг, краязнавец, мастак. Вучыўся ў мастака Я. Матэйкі, потым у Парыжы. З 1898 жыў у Вільні, займаўся жывапісам. У 1920—30-я г. кіраваў мастацкай школай у Вільні. З 1899 даследаваў адзіночныя курганы ў ваколіцах Залесся, Крэва (Смаргонскі р-н), курганныя могільнікі ў Высокім (40 курганоў), Ленкаўшчыне, Ка

зароўшчыне (Маладзечанскі р-н). Знайшоў жал. меч даўж. 75 см, нож, бронзавы пярсцёнак, сякеры, шкляныя і пазалочаныя пацеркі. Зрабіў малюнкі знаходак і перадаў у Віленскі музей.

*Тв.*: Kurhany i cmentarzyska w pow. Oszmiańskim, w gub. Wileńskiej // Światowid. 1901. T. 3; 1911. T. 9; Okolice Wilna: Przewodnik turystyczny. Wilna, 1925. *Г. А. Каханоўскі.*

**ЯРЭМІЧЫ,** стаянкі каменнага і бронзавага вякоў каля в. Ярэмічы Карэліцкага р-на.

Стаянка-1. За 500 м на У ад вёскі, ва ўрочышчы Грудкі, на дзюне левабярэжжа Нёмана. Выявіў у 1962, даследаваў у 1965 М. М. Чарняўскі (ускрыта 18 м²). Пл. 140×80 м (пашкоджана землянымі выпрацоўкамі). Культурны пласт у цэнтры таўшч. 0,7 м.

Знойдзены крамянёвыя трохвугольныя і кароткія тронкавыя наканечнікі стрэл, нажы, скрабкі, разцы і інш., фрагменты керамікі (з раслннымі дамешкамі і грабеньчатым і накольчатым арнаментам; з арганічнымі дамешкамі, гладкасценная, са шнуравым арнаментам і адбіткамі лінейнага штампа).

Адносіцца да культур нёманскай шнуравой керамікі і тшцінецкай.

Стаянка-2. За 300 м на Пн ад вёскі, на дзюне пасярод левабярэжнага поплава Нёмана, ва ўрочышчы Быстрыца. Выявіў у 1973 М. М. Чарняўскі. Культурны пласт таўшч. да 0,5 м. Знойдзены матэрыялы нёманскай неалітычнай культуры.

*Літ.*: 1289. *М. М. Чарняўскі.*

**ЯСЕЛЕВІЧЫ,** група археал. помнікаў каля в. Яселевічы Шчучынскага р-на.

Селішча-1. За 200 м на Пд ад вёскі, на правым карэнным беразе р. Лебяда, з сучаснымі могілкамі. Выявіла і даследавала ў 1955 Ф. Д. Гурэвіч. Пл. 50×20 м. У абрыве берага прасочваецца культурны пласт да 0,4 м. Знойдзены абпаленыя камяні, жал. шлакі, ганчарная кераміка. Датуецца 11—14 ст.

Селішча-2. За 800 м на Пд ад вёскі, на беразе р. Лебяда. Выявіў і даследаваў у 1975 М. А. Ткачоў. Пл. каля 1 га. У абрыве берага культурны пласт да 0,5 м. Пры зачыстцы агаленняў выяўлены рэшткі агнішча, фрагменты ляпной (штрыхаванай) керамікі. У 1978 А. Р. Мітрафанаў раскапаў 105 м². Культурны пласт 0,4—0,5 м.

Знойдзены посуд ранняга этапу культуры штрыхаванай керамікі (7—1 ст. да н. э.). Пераважаюць пасудзіны слоікавай формы, сустракаюцца пераходнага тыпу ад слоікавых да рабрыстых. Шмат жал. шлакаў.

Датуецца 6 ст. да н. э.— 2 ст. н. э.

Курганны могільнік. За 500 м на ПнУ ад вёскі, на беразе р. Лебяда. Захавалася 6 насыпаў дыям. 4—6 м, выш. 0,4—0,6 м. Выявіла ў 1955 Гурэвіч (было 26 насыпаў — 23 круглыя і 3 падоўжаныя). Каля некаторых насыпаў прасочваліся раўкі. У 1975 могільнік абследаваў М. А. Ткачоў. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.*: 272, 786. *Я. Г. Звяруга.*

**ЯСТРАБКА,** гарадзішча *мілаградскай культуры* каля в. Ястрабка Лоеўскага р-на. За 1,3 км на ПнУ ад вёскі, ва ўрочышчы Бабровіны (Язы), на невысокім пагорку ў забалочанай мясцовасці на водападзеле рэк Брагінка і Пясчанка. Гарадзішча авальнай формы, памер 114×91,5 м. Умацавана 2 валамі: унутраным выш. 1,5—1,8 м, шыр. 13—20 м і вонкавым выш. 0,5 м, шыр. 6—10 м і ровам шыр. 3—4 м, глыб. 0,3—0,4 м. Выявіў у 1977, даследаваў 1396 м² у 1978—79 М. І. Лашанкоў. Раскопы закладзены па пляцоўцы (1200 м²) і абарончых збудаваннях (196 м²). Унутраны вал будаваўся ў 2 этапы з выкарыстаннем падзолістай глебы, культурнага пласта, дрэва і невял. камянёў. Ядро вала шыр. 3,5 м, паміж 2 драўлянымі сценамі і яго схілы насыпаны каля 4 ст. да н. э. (шыр. асновы 10 м, выш. вала 1,2 м). Стромкі вонкавы схіл паступова пераходзіў у роў. Каля 3 ст. да н. э. вал падсыпаны, павялічаны яго памеры. Знешні вал насыпаны з пяску, супеску, гліны і абкладзены дзярнінай (першапачатковыя шыр. 4,5 м, выш. 0,7 м). Культурны пласт 0,2—0,5 м. Выяўлены чашападобныя гасп. ямы і вертыкальныя слупавыя ямкі, каля асновы гал. вала — агнішча авальнай формы.



М. А. Янчук.

Знойдзены 2385 фрагментаў керамікі мілаградскай культуры (грубаляпныя венчыкі з зашчыпамі па краі, рэшткі гаршкоў ранняй формы з круглабокім туловам, адагнутым венчыкам і закругленым дном, шарападобных гаршкоў з вертыкальным венчыкам), аздобленых уціскannямі пальцаў, палачкі, пазногця на шыйках, зрэдку пад венчыкам і на плечуках посуду, косці свойскіх і дзікіх жывёл, рыбы, крамянёвыя абломак сярпа, загатоўка сякеры і сякера, бронзавая цвікападобная шпілька і частка бранзалета, жал. абломкі сярпа, рыбалоўнага кручка, ляза сякеры і кольца з бронзавым пакрыццём, касцяныя ручка нажа і амулет, гліняныя пацеркі, праслiцы, шкляныя пацеркі.

Датуецца 4 — пач. 2 ст. да н. э.

*Літ.*: 652, 692, 693, 696, 697, 699. *М. І. Лашанкоў.*

**ЯСУДАВА,** курганны могільнік каля б. маёнтка Ясудава Гродзенскага р-на, ва ўрочышчы Капцы (цяпер зах. ўскраіна г. п. Сапоцкін). Цяпер не існуе. Вядомы з канца 19 ст. У 1908 С. Крукоўскі раскапаў 15 курганоў: 13 круглых (дыям. 5,6—12,5 м, выш. 1,1—2 м) і 2 падоўжаныя (10,1×14,6 м, выш. 2,3 м; 6,7×8,5 м выш. 1,5 м). У 6 курганах на ўзроўні гарызонту выяўлены сляды вогнішчаў. Пахаванні па абраду трупаспалення на грунце і ў розных частках насыпу. Рэшткі спаленняў змешчаны ў спец. гаршках-урнах або ссыпаны ў насып. У 2 курганах на грунце былі каменныя скрыні памерам 3,5×3 м, выш. 1,45 м (у падоўжаным) і 1,8×1,1 м (у круглым). У адной скрыні знаходзіліся перапаленыя косці, а над ёй і пад ёй рэшткі вогнішча. Другая скрыня запоўнена камянямі, а пад ёй — рэшткі вогнішча, над ёй — пахаванне ў насыпе. У 2 курганах на вогнішчах кучы камянёў выш. 0,8 і 1 м.

Пахавальны інвентар 3 курганоў (2 са скрынямі і 1 з урнай) багаты: бронзавыя бранзалеты, пярсцёнкі, шыйныя грыўні, фібулы, падвескі, нажы, наканечнікі кап'я, у іншых курганах пераважна ганчарная кераміка. У 2 круглых курганах было 3 і 11 пасудзін, у падоўжаным з каменнай скрыняй — 10 пасудзін з прамымі і адагнутымі венчыкамі, упрыгожаных пераважна лінейным арнаментам, часта ў спалучэнні з хваляй, радзей — з насечкамі і штампамі.

Могільнік належаў балцкаму насельніцтву, датуецца 10—11 ст.

*Літ.*: 272, 1454. *Я. Г. Звяруга.*

**ЯСЯНЕЦ,** курганны могільнік дрыгавічоў каля в. Ясянец Ганцавіцкага р-на. За 500 м на Пд ад вёскі, злева ад дарогі ў в. Вялікія Круговічы. Захавалася 12 круглых у плане (трапляюцца блізкія да квадрата са зрэзанымі вугламі) курганоў выш. 0,8—1,5 м, асобныя да 2,2—2,5 м, дыям. 7—15 м (раней было больш за 100 насыпаў). Выявіў і раскапаў 3 курганы ў 1955 Б. В. Міралюбаў, 9 насыпаў у 1961 даследаваў П. Ф. Лысенка. Пахавальны абрад — трупапалажэнне (трапляецца трупаспаленне) на спіне галавой на З на попеле рытуальнага вогнішча або ў ямах глыб. 0,2—0,6 м. У некаторых пахаваннях выяўлены сляды спарахнелага дрэва (магчыма, рэшткі дамавіны). У 4 курганах знойдзены пахавальны інвентар — гліняныя ганчарныя гаршкі, жал. і бронзавыя спражкі, на-




**Яфімак «з прызнакам».** Іспанскія Нідэрланды (паўднёвыя): 1. Патагон 1646 Брабанта. Злучаныя Правінцыі (паўночныя); 2. Палавінны абрубак (паўяфімак) рыксдаальдэра 1622 Утрэхта; 3. Даальдэр (талер) 1603 Утрэхтбютэля. Ніжняя Саксонія: 4—5. Талеры 1621 г. Гамбурга. Швейцарыя: 6. Талер 1622 г. Санкт-Галена; 7. Падробленае кляймо на паўднёванідэрландскім патагоне Фландрыі часоў Альберта і Ізабэлы [1598—1621].



Да арт. **Ятвягі.** Выява ятвяжанкі. Рэканструкцыя І. У. Чаквіна па чэрапе з каменнага могільніка-2 Вензаўшчына Шчучынскага р-на. Канец 10 — пач. 11 ст. Скульптар Л. П. Яшэнка.



Да арт. **Ятвягі.** Выява ятвяга. Рэканструкцыя І. У. Чаквіна па чэрапе з каменнага могільніка-2 Вензаўшчына Шчучынскага р-на. Канец 10 — пач. 11 ст. Скульптар Л. П. Яшэнка.



Да арт. **Ятвягі.** Выява ятвяжанкі. Рэканструкцыя І. У. Чаквіна па чэрапе з курганнага могільніка Дубровы Маладзечанскага р-на. 2-я пал. 11 ст. Скульптар Л. П. Яшэнка.

жы, баявыя сякеры і інш. Датуецца 11—13 ст.

За 1 км на Пд ад вёскі, па дарозе ў в. Вялікія Круговічы ў 31-м лясным квартале размешчаны могільнік з 11 насыпаў выш. 0,8—1,5 м, дыям. 8—12 м, за 2 км на Пд ад вёскі — другі могільнік з 12 курганоў выш. 0,8—1,4 м, дыям. 8—12 м.

*Літ.*: 641, 706. *П. Ф. Лысенка.*

**ЯСЯНЕЦ,** група археал. помнікаў каля в. Ясянец Мазырскага р-на.

Гарадзішча-1 ранняга этапу *мілаградскай культуры.* За 1 км на Пд ад вёскі, на забалочаным поплаве р. Прыпяць, ва ўрочышчы Сухалістак. Пляцоўка авальная, памерам 90×60 м, умацавана 2 кальцавымі валамі. Унутраны вал. выш. 3 м, шыр. 10 м, вонкавы — адпаведна 0,5 і 3 м. Выявіў у 1950-я г. Ю. У. Кухарэнка, абследаваў у 1964 Л. Д. Победь, даследаваў у 1979—83 Г. М. Залашка (480 м²). Культурны пласт 0,2—0,3 м. Выяўлены рэштні агнішчаў і гасп. ямы з фрагментамі керамікі.

Знойдзена каля 600 фрагментаў грубай ляпной керамікі (на асобных венчыках посуду прасочаны жамчужны арнамент), 2 бронзавыя шпількі (з S-падобным завіткам і плоскай галоўкай), фрагмент і загатоўка бронзавых бранзалетаў, гліняныя грузікі разнастайнай формы, бронзавы наканечнік скіфскай стралы з ромбападобным пяром і шыпам на ўтулцы, сіняя шкляная пацерка, крамянёвы нож.

Датуецца 7—6 — 3—2 ст. да н. э.

Гарадзішча-2 ранняга этапу мілаградскай культуры. За 1 км на ПдЗ ад вёскі, ва ўрочышчы Вал Скрыгалаўскі (Астравок). Пляцоўка авальнай формы, памер 170×160 м, умацавана 2 кальцавымі валамі (унутраны выш. 2,5 м, шыр. 10 м, вонкавы — адпаведна 0,5 і 6 м), ровам. Выявіў у 1950-я г. Кухарэнка, абследаваў у 1964 Побаль, даследаваў 148 м² у 1979, 1982 Залашка. Культурны пласт 0,2—0,3 м. Знойдзены рэштні ляпной керамікі з венчыкамі, упрыгожанымі жамчужным арнаментам і наляпным валікам. Датуецца канцом 7 — пач. 6 ст. да н. э.

Селішча раннефеадальнага часу. За 3 км на Пн ад вёскі, ва ўрочышчы Селішча. Выявіў у 1962 і абследаваў у 1976 У. Ф. Ісаенка. Працягласць 400 м уздоўж правага берага.воз. Міхайлаўка. Культурны пласт 0,5 м. Знойдзена ганчарная кераміка.

Стаянка эпохі неаліту і бронзавага веку. За 1 км на Пн ад вёскі, ва ўрочышчы Загуменька. Выявіў у 1962, даследаваў у 1976 Ісаенка. Культурны пласт 0,1 м. Знойдзены крамянёвыя прылады працы, рэштні ляпнога посуду.

*Літ.*: 403.

*А. А. Егарэйчанка, У. Ф. Ісаенка.*

**ЯФІМАК,** руская назва *талера* ў 16—18 ст.

**ЯФІМАК З «ПРЫЗНАКАМ»,** назва талернай манеты (яфімка), контрамаркіраванай круглым *штэмпелем* з выявай конніка і прамавугольным з датай «1655», для надання замежным манетам законнай моцы як сродку ўнутранага грашовага абарачэння. Контрамаркіраванне рабіў Маскоўскі манетны двор (адзнакі двара гл. ў арт. *Манетныя двары Расійскай дзяржавы*) штэмпелямі з капеечнага матчніка на манетах для выплаты войскам, закупкі правіянту на занятых у час рускапольскай вайны 1654—67 усх. тэр. Рэчы Паспалітай, насельніцтва якіх было нязвыклае да маскоўскай драцяной капейкі. У 1654—59 контрамаркіраваныя талеры (каля 1 млн.) прызнаваліся законным плацёжным сродкам. Афіцыйна Я. з «п.» надаваўся курс у 64 капейкі (талеру — у 50, патагону — 48, на бел. і ўкр. рынках — у 60 капеек), таму іх выпуск прыносіў значны даход за кошт памяншэння выдаткаў на пераробку талераў у капейку. Выяўлена каля 1800 Я. з «п.» на тэр. Беларусі і Украіны, дзе яны абарачаліся да 1-й чвэрці 18 ст. Найб. ранні з выяўленых яфімак датаваны 1525, пераважная частка выпушчана ў 1615—40, зрэдку сустракаюцца палавінныя контрамаркіраваныя абрубкі талераў. Вядомы 3 тыпы фальшывых клеймаў сярэдзіны 17 ст., якія наносілі на лёвендаальдэры (адпавядалі $^3/_4$—$^4/_5$ кошту талераў і патагонаў) і антыкварныя падробкі з сапраўдных талераў.

*Літ.*: 1594, 1603, 1616. *І. І. Сінчук.*

**ЯЦВЯГІ, ЯТВЯГІ,** судовы, судзіны, група зах.-балцкіх плямён, якія у 1-м — пач. 2-га тысячагоддзя н. э. жылі на тэр. паміж Нёманам на У і р. Нараў, Вялікімі Махурскімі азёрамі на З. Даследчыкі А. Каменскі, Е. Антановіч, Г. Лаўмянскі, Ф. Д. Гурэвіч тэрыторыю Я. абмяжоўваюць раёнам Сувалкаў і найбліжэйшымі да іх землямі; Ю. У. Кухарэнка і В. В. Сядоў уключаюць у склад яцвяжскай тэр. Падляшша, Берасцейскую зямлю і частку Верхняга Панямоння. Сядоў лакалізуе на правабярэжжы Верхняга Нёмана яцвяжскае племя дайнова. Упершыню Я. ўпамінаюцца ў рус. летапісах у 10 ст. Сярод пасольства Русі ў Візантыі пад 944 названы «ятвяг Гунарев». Да 983 адносіцца першае паведамленне пра ваенны паход кіеўскага кн. Уладзіміра на яцвяжскія землі. Апошнія звесткі пра Я. у рус. летапісах датуюцца сярэдзінай 13 ст., у польскіх храністаў — у 15—16 ст. Асноўныя археал. помнікі Я.— *каменныя курганы.* Насыпы звычайна невысокія, круглыя ў плане, дыяметрам 8—15 м. На змену каменным курганам прыйшлі каменныя магілы, найб. раннія з якіх датуюцца канцом 11—12 ст. Для курганоў 3—4 ст. характэрна біабраднасць: побач з трупапалажэннем існуе трупаспаленне. Пачынаючы з 5 ст., трупаспаленне становіцца пануючым.

Рэштні спаленняў змяшчалі ў грунтавых ямах пад насыпам або сярод каменняў у насыпе. Колькасць пахаванняў у адным кургане 1—6. У 11—12 ст. трупаспаленне змяняецца трупапалажэннем. Пахавальны інвентар у курганах 3—4 ст. з трупапалажэннем багаты і разнастайны. У мужчынскіх пахаваннях — прадметы ўзбраення і рыштунак баявога каня, у жаночых — упрыгожанні і дробныя прылады працы. У курганах з трупаспаленнем інвентар значна бяднейшы, а ў пахаваннях канца 1-га — пач. 2-га тысячагоддзя н. э. амаль зусім адсутнічае. У курганах пачатку 2-га тысячагоддзя з трупапалажэннем інвентар зноў багаты і разнастайны. У мужчынскіх пахаваннях — наканечнікі коп'яў, сякеры, крэсівы, спражкі, у жаночых — вісочныя кольцы, бранзалеты, пярсцёнкі, пацеркі. Жал. нажы і гліняныя пасудзіны сустракаюцца і ў мужчынскіх, і ў жаночых пахаваннях. Частка каменных курганоў і каменных магіл 11—13 ст. Верхняга Панямоння і Брэсцкага Пабужжа належала, відавочна, не ўласна яцвяжскаму насельніцтву, а славянізаваным нашчадкам Я., або славянам, якія пераймалі яцвяжскі пахавальны абрад. Я. ў гэты час знаходзіліся на стадыі разлажэння першабытнаабшчыннага ладу і станаўлення феад. адносін. Асновай іх гаспадаркі былі земляробства, жывёлагадоўля, паляванне. Развіваліся рамёствы. На тэр. Беларусі помнікі Я. даследавалі В. А. Шукевіч, Э. А. Вольтэр, С. А. Дубінскі, І. В. Біруля, Сядоў, Я. Г. Звяруга, Т. М. Каробушкіна і інш.

*Літ.*: 272, 424, 848, 1056, 1065, 1248.

*Я. Г. Звяруга.*

# ЛІТАРАТУРА

## АРХЕАЛОГІЯ


1. **Абецедарский Л. С.** Белоруссия и Россия: Очерки рус.-бел. связей второй половины XVI — XVII в. Мн., 1978.
2. **Авдусин Д. А.** Археологические разведки и раскопки. М., 1959.
3. **Авдусин Д. А.** Археология СССР. 2 изд. М., 1977.
3а. **Авдусин Д. А.** Гнездово и днепровский путь // Новое в археологии: Сб. ст. посв. 70-летию А. В. Арциховского. М., 1972.
4. **Авдусин Д. А.** Полевая археология СССР. 2 изд. М., 1980.
5. **Авдусин Д. А.** Раскопки в Гнездове // КСИИМК. 1951. Вып. 38.
6. **Авенариус Н. П.** // Большая энциклопедия. 3 изд. Спб., 1903. Т. 1.
7. **Авенариус Н. П.** Башня вел. кн. Владимира Васильевича в м. Каменце-Литовском // Тр. О-ва исследователей Волыни. 1902. Т. 1.
8. **Авенариус Н. П.** Заметки о раскопках в Минской губернии в 1889 и 1890 годах // Тр. ВОМПК. Вильна, 1893.
9. **Авенариус Н. П.** [Некролог] //Виленский календарь на 1904 г. Вильна, 1904.
10. **Авенариус Н. П.** [Некролог] // Ист. вестн. Спб., 1903. № 8.
11. **Агеева Р. А.** Проблемы межрегионального исследования топонимии балтийского происхождения на восточнославянской территории // Балто-славянские исследования. 1980. М., 1981.
12. **Адамовіч Я. М.** Мікратапанімічныя назвы. Мн., 1971.
13. **Акты** Виленской археографической комиссии. Т. 14. Вильна, 1887.
14. **Акты** Виленской археографической комиссии. Т. 25. Вильна, 1898.
15. **Акты** Виленской археографической комиссии. Т. 33. Вильна, 1908.
16. **Акты** Литовско-Русского государства. Вып. 1. М., 1899.
17. **Акты** Московского государства. Т. 2. Спб., 1894.
18. **Акты** Московского государства. Т. 3. Спб., 1901.
19. **Акты,** относящиеся к истории Южной и Западной России... Т. 3. Спб., 1861.
20. **Акуліч С.** Музеі братоў Тышкевічаў // ПГКБ. 1971. № 2.
21. **Акуліч С. А., Сасноўскі Б. У.** Лагойск: Гіст.-экан. нарыс. Мн., 1979.
21а. **Акунова Л. Ф., Крапивин В. А.** Технология производства и декорирование художественных керамических изделий. М., 1984.
22. **Александров А. А.** О следах язычества на Псковщине // КСИА. 1983. Вып. 175.
23. **Александровіч Н., Крывальцэвіч М.** Тайна возера Вячэра // Родная прырода. 1988. № 6.
24. **Александрович Н. П.** Ихтиофауна из раскопок Масковичского городища (X — XIII вв.) // Древности Белоруссии и Литвы. Мн., 1982.
25. **Алексеев В. П.** Географические очаги формирования человеческих рас. М., 1985.
26. **Алексеев В. П.** География человеческих рас. М., 1974.
27. **Алексеев В. П.** Палеоантропология зеленого шара и формирование человеческих рас: Палеолит. М., 1978.
28. **Алексеев В. П.** Палеодемография СССР // СА. 1972. № 1.
29. **Алексеев В. П.** Происхождение народов Восточной Европы: (Краниол. исслед.). М., 1969.
30. **Алексеев В. П.** Становление человечества. М., 1984.
31. **Алексеев В. П.** Человек: эволюция и таксономия: некоторые теорет. вопросы. М., 1985.
32. **Алексеев В. П., Дебец Г. Ф.** Краниометрия: Методика антропол. исслед. М., 1964.
33. **Алексеев В. П., Першиц А. И.** История первобытного общества. М., 1990.
34. **Алексеев Л. В.** Археологические памятники эпохи железа в среднем течении Западной Двины: (Материалы к археол. карте Витебской обл. БССР) // Вопросы этнической истории народов Прибалтики. М., 1959.
35. **Алексеев Л. В.** Белорусская археология и историческое краеведение во второй половине XIX — начале XX в. // СА. 1968. № 3.
36. **Алексеев Л. В.** Берестяная грамота из древнего Мстиславля // СА. 1983. № 1.
37. **Алексеев Л. В.** Городище Девичья гора в г. Мстиславле // КСИА. 1963. Вып. 94.
38. **Алексеев Л. В.** Домен Ростислава Смоленского // Средневековая Русь. М., 1976.
39. **Алексеев Л. В.** Древний Мстиславль // КСИА. 1976. Вып. 146.
40. **Алексеев Л. В.** Еще три шиферных пряслица с надписями // СА. 1959. № 2.
41. **Алексеев Л. В.** К истории и топографии древнейшего Витебска // СА. 1964. № 1.
42. **Алексеев Л. В.** К шестидесятилетию Б. А. Рыбакова // СА. 1968. № 2.
43. **Алексеев Л. В.** Мелкое художественное литье из некоторых западнорусских земель: (кресты и иконки Белоруссии) // СА. 1974. № 3.
44. **Алексеев Л. В.** Очерк истории белорусской дореволюционной археологии и исторического краеведения до 60-х годов XIX в. // СА. 1967. № 4.
45. **Алексеев Л. В.** Периферийные центры домонгольской Смоленщины // СА. 1979. № 4.
46. **Алексеев Л. В.** Полоцкая земля в IX — XIII вв.: (Очерки истории Северной Белоруссии). М., 1966.
47. **Алексеев Л. В.** Раскопки древнего Браслава // КСИА. 1960. Вып. 81.
48. **Алексеев Л. В.** Смоленская земля в IX — XIII вв.: (очерки истории Смоленщины и Восточной Белоруссии). М., 1982.
49. **Алексеев Л. В.** Три пряслица с надписями из Белоруссии // КСИИМК. 1955. Вып. 57.
50. **Алексеев Л. В.** Художественные изделия косторезов из древних городов Белоруссии // СА. 1962. № 4.
51. **Алексеев Л. В.** и др. Работы в древнем Мстиславле // АО 1983. М., 1985.
52. **Алексеев Л. В., Сергеева З. М.** Раскопки курганов в Восточной Белоруссии // КСИА. 1973. Вып. 135.
53. **Алексеева Т. И.** Географическая среда и биология человека. М., 1977.
54. **Алексеева Т. И.** Этногенез восточных славян по данным антропологии. М., 1973.
55. **Аляксееў Л. В.** Берасцяная грамата // ПГКБ. 1982. № 2.
56. **Аляксееў Л. В.** Старажытны Браслаў // ПГКБ. 1978. № 4.
57. **Аляксееў Л. В.** Старажытны Друцк // ПГКБ. 1973. № 3.
58. **Аляксееў Л. В.** Старажытны Мсціслаў // ПГКБ. 1971. № 1.
59. **Аляксееў Л. В.** Старажытныя жыхары Беларусі аб сваіх помніках даўніны // ПГКБ. 1985. № 4.
60. **Аляксееў Л. В.** Таленавіты даследчык Беларусі // ПГКБ. 1980. № 1.
60а. **Аляксееў Л., Шыраева Н.** Першы беларускі антраполаг // ПГКБ. 1988. № 1.
61. **Амальрик А. С., Монгайт А. Л.** Что такое археология. 3 изд. М., 1966.
62. **Амброз А. К.** Фибулы юга Европей-

